# БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ















# ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ









МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ
ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1989



ББК 63.5(2)Я2
Э91

**НАВУКОВЫЯ КАНСУЛЬТАНТЫ:**

М. В. БІЧ,
А. П. ГРЫЦКЕВІЧ,
У. С. ГУРКОЎ,
К. П. КАБАШНІКАЎ,
А. С. ЛІС,
С. А. МІЛЮЧЭНКАЎ,
П. А. МІХАЙЛАЎ,
М. Ф. ПІЛІПЕНКА,
М. Ф. РАМАНЮК,
А. С. ФЯДОСІК,
Г. А. ЦЫХУН,
Ю. М. ЧУРКО.

Э $\frac{0505000000-013}{ЭМ318(03)-89}$ 3—89

ISBN 5-85700-014-9

## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

Энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі» мае на мэце даць магчымасць чытачу пазнаёміцца з асноўнымі аспектамі жыццядзейнасці беларусаў ад старажытных часоў да нашых дзён, іх матэрыяльнай і духоўнай культурай.

Артыкулы, што ўвайшлі ў гэта выданне, тэматычна прадстаўляюць наступныя раздзелы. Тэарэтычныя артыкулы даюць магчымасць пазнаёміцца з сучасным вызначэннем такіх этнаграфічных паняццяў, як этнас, этнасацыяльны арганізм, этнічныя працэсы, народнасць, нацыя і г. д. Крыніцазнаўчыя артыкулы адлюстроўваюць этнічны, сацыяльна-эканамічны і культурны стан Беларусі і яе насельніцтва ў розныя гістарычныя адрэзкі часу. У артыкулах пра летапісы, акты, рэвізіі, статуты, інвентары, архівы, навуковыя і перыядычныя выданні змяшчаюцца матэрыялы пра жыццядзейнасць насельніцтва Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Рускай дзяржавы. Блізкія да гэтай групы і артыкулы, прысвечаныя пытанням паходжання (этнагенезу) і развіцця (этнічнай гісторыі) беларускага этнасу з 14 ст. да нашых дзён. Найбольш поўна гэтыя звесткі адлюстраваны ў артыкуле «Беларусы». Асобныя артыкулы гэтай групы асвятляюць працэсы складвання беларускай народнасці і нацыі, фарміравання этнічнай самастойнасці беларусаў, працэсы этнічнай кансалідацыі і інтэграцыі, якія паказваюць, што беларусы ў братняй сям'і ўсходнеславянскіх народаў складаюць асобную нацыю са сваёй гісторыяй, мовай, асаблівасцямі культуры і побыту, што адрозніваюць іх ад іншых народаў. Сюды адносяцца і артыкулы, якія характарызуюць іншыя народы і этнічныя групы, што жывуць на тэрыторыі Беларусі або мяжуюць з ёю (рускія, украінцы, літоўцы, латышы, палякі, яўрэі і інш.).

Самая вялікая група артыкулаў прысвечана характарыстыцы побыту і культуры беларусаў: іх вытворчай дзейнасці ў пэўныя гістарычныя перыяды, земляробству, жывёлагадоўлі, падсобным заняткам, рамёствам і промыслам, вырабам і прыладам працы. Гэтыя артыкулы даюць яскравае ўяўленне пра высокі ўзровень народнага ўмельства і майстэрства. Пра гэта ж сведчыць група артыкулаў, што характарызуюць развіццё матэрыяльнай культуры народа: пасяленні, гаспадарчыя комплексы, хатняе абсталяванне, розныя рэчы гаспадарчага і хатняга ўжытку, традыцыйнае народнае адзенне, ежу, пра шляхі зносін і розныя транспартныя сродкі, іх выраб і спосабы выкарыстання. У энцыклапедыі шмат рэалій, якія ўжо зніклі або выйшлі з ужытку, але маюць культурна-гістарычнае значэнне.

Значная колькасць артыкулаў гэтага выдання прысвечана духоўнай культуры беларусаў: народнаму светапогляду, народным ведам у галіне медыцыны, ветэрынарыі, матэматыкі, геаметрыі, агранаміі, метралогіі, метэаралогіі, астраноміі і інш., абрадам, звычаям і традыцыям, вераванням, мове і вуснапаэтычнай творчасці, народнаму мастацтву (выяўленчаму, прыкладному, тэатральнаму, харэаграфічнаму, музычнаму і інш.).

Пэўная колькасць артыкулаў прысвечана сям'і, шлюбу, сямейным адносінам, сямейнаму звычаёваму праву, ступеням сваяцтва, сямейным, вясельным абрадам. Гэта тэматыка цесна звязана з грамадскім жыццём народа, у тым ліку з такімі з'явамі грамадскага жыцця, якія ўжо зніклі або знікаюць. Падрабязна разглядаюцца роля абшчынных адносін у мінулым, рэгуляванне адносін насельніцтва вёскі і розных сацыяльных груп горада ў пэўныя гістарычныя перыяды, карэнныя змены, што адбыліся ў грамадскім жыцці насельніцтва Беларусі за гады Савецкай улады.

Ёсць артыкулы, прысвечаныя самой этнаграфічнай навуцы, яе гісторыі, асноўным тэндэнцыям яе развіцця, а таксама біяграфічныя артыкулы пра даследчыкаў беларускай этнаграфіі, побыту і культуры насельніцтва Беларусі.

Энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі» з'яўляецца калектыўнай працай. У яе стварэнні ўдзельнічалі беларускія вучоныя — этнографы, фалькларысты, мовазнаўцы, гісторыкі, археолагі, літаратуразнаўцы і мастацтвазнаўцы. Разлічана выданне на выкладчыкаў і студэнтаў гуманітарных факультэтаў ВНУ, настаўнікаў сярэдніх школ і ўсіх, хто цікавіцца беларускай этнаграфіяй. Свае заўвагі і пажаданні просім дасылаць на адрас: 220600, ГСП, вул. Акадэмічная, 15а, выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

## ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ

Этнаграфія як спецыялізаваная галіна гістарычнай навукі вывучае этнасы-народы, іх культуру і побыт ад старажытных часоў да нашых дзён. Асноўная ўвага надаецца вывучэнню спецыфічных асаблівасцей этнічнай культуры і побыту, а таксама рыс, агульных з іншымі этнасамі. Побач з аналізам агульнага і асаблівага (спецыфічнага) этнаграфічная навука разглядае адзінкавае, паасобнае, на базе якога пазнаецца спецыфічна-асаблівае, характэрнае для данага этнасу, а таксама агульнае, што аб'ядноўвае гэты этнас з іншымі. На сучасным этапе ў сав. этнаграфіі вызначыўся пэўны комплекс праблем: этнагенез і этнічная гісторыя, матэрыяльная (прылады працы, жыллё, адзенне, ежа і інш.) і духоўная (народная творчасць, светапогляд, звычаі, традыцыі, абрады, вераванні, народныя веды ў галіне медыцыны, метэаралогіі, метралогіі і інш.) культуры, сямейны, грамадскі і вытворчы побыт народаў. Найбольш актуальныя задачы савецкай этнаграфіі — вывучэнне сучасных этнічных працэсаў (узаемадзеяння, узаемасувязей этнічных культур) і змен у побыце і культуры народаў СССР. Новыя задачы па ўсебаковаму вывучэнню працэсаў, што адбываюцца ў побыце і культуры народа на сучасным этапе, выклікалі неабходнасць выкарыстоўваць у этнаграфічных даследаваннях сацыялагічныя метады выяўлення, збору матэрыялаў і матэматычнай апрацоўкі іх на ЭВМ.

Этнаграфія звязана з усімі іншымі грамадскімі навукамі, а ў залежнасці ад характару і спецыфікі аб'ектаў вывучэння — з некаторымі прыродазнаўчымі навукамі. Пры вывучэнні этнагенезу, этнічнай гісторыі і асабліва першабытнага грамадства этнаграфія стыкуецца з гісторыяй, археалогіяй і антрапалогіяй. Цесна звязана яна з *фалькларыстыкай.* Без геаграфіі немагчыма ўявіць вывучэнне такіх пытанняў, як рассяленне і міграцыя насельніцтва, этнічная тэрыторыя і этнаграфічныя межы, пашырэнне і ўзаемаўплыў розных з'яў побыту і культуры. На глебе вывучэння сучасных этнічных і культурна-бытавых працэсаў этнаграфія змыкаецца з этнасацыялогіяй і этнапсіхалогіяй.

Этнаграфічнай навуцы належыць важная роля ў развіцці нацыянальнай культуры бел. народа. У дарэвалюцыйны час ва ўмовах многавяковай барацьбы народа за сваё нацыянальнае і культурнае развіццё, супраць польскіх нацыяналістаў і рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў, якія праводзілі палітыку дэнацыяналізацыі *беларусаў*, этнаграфічная навука садзейнічала ўстанаўленню гістарычна справядлівых поглядаў на народ і яго культуру.

Пры вызначэнні месца этнаграфіі ў нацыянальным і культурным развіцці дарэвалюцыйнай Беларусі неабходна мець на ўвазе, што гэтая навука была афіцыйна дазволена, у той час як бел. літаратура і іншыя галіны нацыянальнай культуры царызм імкнуўся вынішчыць у самым зародку. Таму этнаграфічная літаратура самая шматлікая. Аб'ядноўваючы ў дасавецкі перыяд уласна этнаграфію, фалькларыстыку і моваазнаўства, бел. этнаграфія вывучала не толькі найважнейшыя асаблівасці культурнага развіцця народа, але і садзейнічала далейшаму прагрэсу іншых галін нацыянальнай культуры. Этнаграфічная літаратура, напісаная з дэмакратычных і прагрэсіўных пазіцый, паказвала багацце культурнай спадчыны народа, абуджала пачуццё нацыянальнай і класавай самасвядомасці, дапамагала кансалідаваць сілы народа. Дзякуючы этнаграфічным ведам культурная спадчына бел. народа ўлілася ў скарбніцу сусветнай культуры.

Гістарыяграфічныя нататкі па бел. этнаграфіі (гл. *Гістарыяграфія этнаграфіі*) пачалі з'яўляцца ў 2-й пал. 19 ст. Як правіла, яны ўключаліся ў прадмовы публікацый фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў (П. А. Гільтэбрант, П. А. Бяссонаў, Е. Р. Раманаў, М. В. Доўнар-Запольскі). У канцы 1880-х г. з'явіліся першыя артыкулы па гісторыі бел. этнаграфіі А. М. Пыпіна (Вестник Европы. 1887. Кн. 4—7). Некалькі дапоўненыя, яны ў 1892 увайшлі ў яго 4-томную працу «Гісторыя рускай этнаграфіі» (т. 4. Беларусь і Сібір). Гэта праца — першая сур'ёзная спроба распрацоўкі гістарыяграфіі бел. этнаграфіі. Аднак многія пытанні развіцця бел. этнаграфіі не атрымалі ў ёй глыбокага аналізу. Новая спроба агляду прац па бел. мове, фальклору і этнаграфіі зроблена ў пач. 20 ст. Я. Ф. Карскім у яго 1-м томе «Беларусаў» (Вільна, 1904). У сувязі з тым, што галоўнай задачай агляду беларусазнаўчай літаратуры для Карскага быў паказ верагоднасці яе як крыніцы для вывучэння бел. мовы, у яго працу не ўвайшлі многія чыста этнаграфічныя працы. У сваім аглядзе Карскі асноўную ўвагу аддаў аналізу методыкі запісу і публікацыі фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, іх паспартызацыі, дакладнасці перадачы на пісьме фанетычных асаблівасцей мясцовых гаворак. Тым не менш працы Пыпіна і Карскага раскрылі багацце прац па беларусазнаўству і ўпершыню сістэматызавалі іх. Пэўным дапаўненнем да гістарыяграфічных прац Пыпіна і Карскага былі шматлікія рэцэнзіі на фальклорна-этнаграфічныя зборнікі і інш. працы бел. даследчыкаў.

Разглядаючы дарэвалюцыйную гістарыяграфічную літаратуру па бел. этнаграфіі, неабходна мець на ўвазе, што аўтары яе пераважна стаялі на буржуазных пазіцыях ліберальнага асветніцтва. Такі падыход да вывучэння гісторыі этнаграфічных ведаў не мог прывесці да стварэння сапраўднай навуковай гістарыяграфіі гэтай навукі.

Першыя спробы стварэння марксісцкай гістарыяграфіі бел. этнаграфіі зроблены ў 1920 — пач. 30-х г. Агляды этнаграфічнай і фальклорнай работы ў СССР апублікавалі Ю. М. Сакалоў і Дз. К. Зяленін

(«Этнография», 1926—27). У сваіх артыкулах яны разглядзелі асноўныя кірункі і тэндэнцыі ў развіцці навукі ў 1920-я г. і ахарактарызавалі важнейшыя працы па ўсх.-слав. этнаграфіі і фальклору. Непасрэдна пытанням вывучэння побыту і культуры беларусаў у гэты час прысвечаны артыкул К. Весялоўскай «Агляд этналагічнай работы ў Беларусі за перыяд 1917—1925 гг.» (Этнография. 1926. № 1—2), у якім аўтар разглядае гал. чынам збіральніцкую дзейнасць і экспедыцыйную работу, пералічвае матэрыялы (пераважна экспанаты для музеяў), сабраныя на Беларусі да сярэдзіны 20-х г. Асобныя пытанні развіцця бел. этнаграфіі ў дарэвалюцыйны і савецкі час закрануты ў працах М. І. Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры» (1920), П. Любецкага «Беларуская народная літаратура (Гісторыя збірання)» (1922), М. Каспяровіча «Беларуская навука да Кастрычніка і пасля яго» (1927) і «Арганізаванае вывучэнне Беларусі ў XIX і пачатку XX ст.» (1928), а таксама ў нарысах, прысвечаных дзейнасці Ін-та бел. культуры і Акадэміі навук БССР. Асобныя артыкулы пра дзейнасць найбольш вядомых даследчыкаў побыту і культуры беларусаў (М. А. Янчука, І. І. Ляпёхіна, П. В. Шэйна, Раманава, М. Федароўскага, Д. М. Анучына) з'явіліся ў перыядычных выданнях БССР, АН СССР, УССР і Чэхаславакіі.

Спробу распрацоўкі гісторыі бел. этнаграфіі ў 1920-я г. зрабіў А. Шлюбскі. Аднак яму ўдалося апублікаваць толькі некалькі артыкулаў пра этнаграфічную дзейнасць З. Бядулі, Шэйна, У. М. Дабравольскага і Раманава, а таксама выдаць бібліяграфію прац па бел. этнаграфіі (1927). Напісаная ім у 1928 г. праца «Беларуская этнаграфія мінулага дзесяцігоддзя (1919—1928)» засталася ў рукапісе (зберагаецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі АН УССР).

У 1930—40-я г., акрамя т. зв. «выкрывальніцкіх» артыкулаў і брашур А. Бабровіча, І. Шпілеўскага, М. Я. Грынблата, М. М. Нікольскага, якія ва ўмовах культу асобы прывялі да спынення этнаграфічных даследаванняў на Беларусі, не з'явілася ніводнай навуковай працы па гісторыі бел. этнаграфіі.

Сістэматычнае вывучэнне гісторыі бел. этнаграфіі пачалося з сярэдзіны 1950-х г., калі ў друку з'явіліся артыкулы, прысвечаныя яе развіццю за гады Савецкай улады. На працягу 1960—70-х г. В. К. Бандарчык распрацаваў гісторыю бел. этнаграфіі ад яе зараджэння да нашых дзён («Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.», 1964, «Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст.», 1970, «Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі», 1972, «Развіццё беларускай этнаграфіі за гады Савецкай улады», 1979). Выдадзены кнігі пра жыццё і дзейнасць Раманава, Нікіфароўскага, А. К. Сержпутоўскага, Федароўскага, этнагр. спадчыну Я. Коласа і інш. У перыядычным друку апублікаваны шматлікія артыкулы па праблемах развіцця бел. этнаграфіі і фалькларыстыкі і пра даследаванні асобных этнографаў. Некаторыя пытанні гістарыяграфіі этнаграфіі асветлены ў манаграфіях М. Ф. Піліпенкі «Этнаграфія Беларусі» (1981), І. К. Цішчанкі «Да народных вытокаў» (1986), А. С. Фядосіка «Беларуская савецкая фалькларыстыка» (1987) і інш.

Беларусы разам з рускімі і ўкраінцамі належаць да ўсходніх славян. Генетычная роднасць, агульнасць гістарычнага лёсу, пастаянныя міжэтнічныя сувязі, падобнасць прыродных умоў, у якіх развіваліся гэтыя народы, прывялі да выпрацоўкі блізкіх форм вытворчага, грамадскага і сямейнага побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры, традыцый і звычаяў.

Сучасныя межы БССР ахопліваюць тэрыторыю, на якой жыве пераважная большасць беларусаў, і ў асноўным супадаюць з межамі рассялення бел. этнасу. Паводле перапісу 1979, беларусы сярод іншых народаў СССР колькасна займаюць чацвёртае месца (пасля рускіх, украінцаў, узбекаў) і складаюць 3,6 % усяго насельніцтва СССР, або 9463 тыс. чалавек. З іх 7569 тыс. пражывае ў БССР. За межамі Беларусі ў іншых рэспубліках СССР знаходзіцца 1,9 млн. беларусаў: 1052 тыс.— у РСФСР, 406 тыс.— у УССР, 181 тыс.— у Казахскай ССР, 112 тыс.— у Латвійскай ССР, 58 тыс.— у Літоўскай ССР, 23 тыс.— у Эстонскай ССР. Усяго ў свеце, паводле падлікаў С. І. Брука, у 1978 пражывала 9680 тыс. беларусаў, з іх 97,8 % у СССР і 1,9 % у ПНР (180 тыс.), 0,3 % беларусаў знаходзілася ў іншых краінах свету, у т. л. 20 тыс. у ЗША і 10 тыс. у Канадзе.

Мова беларусаў — адно з адгалінаванняў усх.-слав. моў. Паводле перапісу 1979, роднай *беларускую мову* лічаць 84 % беларусаў у БССР і 37 % за яе межамі (у іншых саюзных рэспубліках).

На сучаснай тэрыторыі Беларусі ў 6—8 ст. рассяляліся ўсх-.слав. плямёны днепра-дзвінскіх крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, часткова валынян, севяран і драўлян, якія ў 9—10 ст. увайшлі ў склад старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. Яна стала агульнай калыскай трох усх.-слав. народнасцей — рускіх, украінцаў і беларусаў. Беларуская народнасць сфарміравалася ў 14—16 ст. пасля распаду ў 13 ст. Старажытнарускай дзяржавы, на яе заходняй частцы, якая ў 13—14 ст. увайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага.

Паходжанне назвы *Белая Русь* канчаткова не высветлена. На пачатку яна адпавядала назве Вольная Русь. Пазней яна пашырылася на ўсе бел. землі, а ўсх.-слав. насельніцтва Белай Русі (Беларусі) стала называцца беларусамі (беларусцамі, беларусінамі). Тэрмін «беларусы» станавіўся этнонімам паступова, замяняючы мясцовыя, ці рэгіянальныя, мікраэтнонімы, што паходзілі ад назваў населеных пунктаў або тых ці інш. тэрытарыяльных і геаграфічных назваў. Беларускі этнас знаходзіўся на больш высокім узроўні сацыяльна-эканам. і культурнага развіцця і зрабіў вялікі ўплыў на ўсе сферы жыцця Вялікага княства Літоўскага. Дзяржаўнай мовай яго з'яўлялася старажытнабел. мова, на якой вяліся справаводства і ўся перапіска, складаліся афіцыйныя граматы, статуты, летапісы і хронікі, мастацкія і рэлігійныя творы. У перыяд фарміравання бел. народнасці ў выніку росту таварна-грашовых адносін, развіцця ўнутранага рынку, эканамічных і культурных сувязей склаліся асноўныя рысы бел. этнасу ў гаспадарчым і грамадскім жыцці, *матэрыяльнай культуры* і *духоўнай культуры*, мове і традыцыях. У выніку міжэтнічнай інтэграцыі і ўзаемаўплыву з літоўцамі, палякамі і інш. этнасамі беларусы набылі сваю спецыфіку, якая адрозніваla іх ад інш. этнасаў. Аднак у асноўных сваіх характарыстыках беларусы мелі шмат агульнага з генетычна роднымі рускімі і ўкраінцамі.

Пасля аб'яднання ў 1569 Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую — працэсы развіцця бел. этнасу ўскладніліся. Польска-каталіцкая экспансія

была разлічана на палапізацыю бел. народа. Беларуская мова ўсё больш выцясняляся з афіцыйнага ўжытку, а з канца 17 ст. справаводства ў Вялікім княстве Літоўскім пераведзена на польскую мову. Былі закрыты амаль усе бел. школы, забараняліся праваслаўныя брацтвы, многія праваслаўныя цэрквы і манастыры ператвораны ва уніяцкія. Паўночная вайна 1700—21 яшчэ больш пагоршыла становішча. Далучэнне Беларусі да Расіі (канец 18 ст.) дало пачатак новаму этапу этнічнага развіцця Беларусі. Аднак царызм праводзіў на Беларусі сваю шавіністычную палітыку, накіраваную на русіфікацыю краю.

У 1-й пал. 19 ст. зарадзіліся бел. этнаграфія і фальклярыстыка. Побач з бел. і польскімі дзеячамі (П. Шпілеўскі, М. Чарноўская, Ян Чачот, Я. Баршчэўскі, І. Храпавіцкі, У. Сыракомля, А. Рыпінскі і інш.) значны ўклад у іх развіццё зрабілі рускія вучоныя (Ляпёхін, В. Севяргін). Пачатак развіццю новай бел. літаратуры былі пакладзены ананімнымі паэмамі «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», творчасцю П. Багрыма, В. Дуніна-Марцінкевіча. Адбываецца працэс станаўлення бел. тэатра (Дунін-Марцінкевіч), прафесійнага музычнага мастацтва (кампазітар А. Абрамовіч), выяўленчага мастацтва (Я. Дамель, В. Ваньковіч, В. Дмахоўскі і інш.). Значнымі былі набыткі і ў галіне філасофіі, сацыялагічнай і эстэтычнай думкі (К. Нарбут, С. Майман, А. Доўгірд і інш.). Развіваліся астраномія, матэматыка, медыцына (М. Пачобут-Адляніцкі, Я. і А. Спядэцкія, В. Крачэўскі), аграбіялогія і інш. сельскагаспадарчыя навукі (М. Ачапоўскі, І. Чарнапятаў). Змены ў эканамічным, сацыяльным і культурным жыцці Беларусі ў 1-й пал. 19 ст. сведчылі пра ўзмацненне кансалідацыі бел. народнасці і паступовы пераход да новага этапу развіцця бел. этнасу ад народнасці да нацыі. Зараджэнне капіталістычных адносін прывяло да крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы. У перыяд капіталізму больш хутка, чым у папярэднія перыяды, адбывалася кансалідацыя бел. этнасу ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве, што асабліва выразна выявілася ў дзейнасці рэвалюцыянера-дэмакрата, кіраўніка паўстання 1863—64 К. Каліноўскага, у творчасці бел. пісьменнікаў 2-й пал. 19 ст. Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Ф. Тапчэўскага, А. Абуховіча. На пач. 20 ст. ў бел. літаратуру прыйшлі Цётка, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч і інш. пісьменнікі, якія адлюстроўвалі новы ўзровень сацыяльнай і этнічнай самасвядомасці беларусаў, заклікалі іх да рэвалюцыйнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Іх дзейнасць разгортвалася ў рэчышчы агульнарасійскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху. Больш яскрава рост этнічнай свядомасці беларусаў праявіўся і ў дзейнасці вучоных і краязнаўцаў Насовіча, Нікіфароўскага, Раманава, Доўнар-Запольскага, Карскага і інш. этнографаў і фалькларыстаў. Ідэі марксізму-ленінізму адыгралі вызначальную ролю ў далейшай кансалідацыі бел. этнасу, уключэнні яго ў барацьбу народаў Расіі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Кульмінацыяй гэтай барацьбы з'явілася Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, якая ажыццявіла шматвяковыя мары народаў царскай Расіі, у т. л. і беларусаў.

Асноўным заняткам беларусаў, як і інш. славянскіх этнасаў, з'ўлялася *земляробства*, падсобнымі — *жывёлагадоўля, паляўнічтва* і *рыбалоўства*. Іншыя віды заняткаў — *рамёствы, промыслы, збіральніцтва* — суіснавалі з асноўнымі і ў большай сваёй частцы былі дапаможнымі, абслугоўвалі ці забяспечвалі асноўныя віды заняткаў прыладамі працы, транспартнымі сродкамі, рэчамі паўсядзённага ўжытку ці дадатковымі прадуктамі харчавання. У адпаведнасці з характарам вытворчай дзейнасці фарміраваліся асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. *Жыллё, адзенне*, ежа, прылады працы і іншыя элементы матэрыяльнай культуры беларусаў маюць шмат агульнага з суседнімі народамі. Этнічная спецыфіка праяўлялася гал. чынам у пэўных канструкцыйных асаблівасцях, захоўваючы асноўныя функцыянальныя прызначэнні. Так, сярод земляробчых прылад працы адметнай была т. зв. палеская саха і яе разнавіднасці, якія ахоплівалі паўд. частку Беларусі.

Для духоўнай культуры беларусаў характэрным з'яўляецца захаванне агульнаславянскіх і ўсх.-слав. рыс у народных абрадах, вераваннях і фальклоры. Так, на Пд Беларусі найбольш поўна захаваліся русальныя і куставыя песні і абрады. На ўсёй тэрыторыі бытуюць чарадзейныя казкі. І разам з тым у фальклоры адсутнічаюць быліны і думы, першыя з якіх характэрны для рускіх, а другія — для ўкраінцаў. Слаба праглядаюцца абрады і песні масленічнага цыкла, але больш шырока — купальскія песні і абрады. Многа адметнага захавалася ў народнай харэаграфіі.

З утварэннем БССР (1.1.1919) бел. этнас атрымаў сваю дзяржаўнасць і права на свабоднае развіццё. Гістарычны акт утварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (1922) умацаваў суверэнітэт бел. нацыі, стварыў гарантыі яе эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця, ваеннай бяспекі. Фарміраванне новых, сацыялістычных адносін адбывалася ў ходзе выцяснення рэштак шматукладнасці ў эканоміцы і завяршылася ў 1930-я г. перамогай сацыялістычнага ўкладу ва ўсіх сферах жыцця. У 1939 з уз'яднаннем Заходняй Беларусі з БССР завяршылася тэрытарыяльная кансалідацыя бел. этнасу. За гады Савецкай улады бел. народ дасягнуў сапраўднага росквіту ў сваім гаспадарчым і культурным развіцці. Беларусь ператварылася ў краіну высокаразвітай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. У БССР кансалідавалася бел. сацыялістычная нацыя. Прафесійная культура стала набыткам усяго народа. Культура, як і навука бел. этнасу, улілася ў культуру ўсёй краіны Саветаў, у сусветную культуру. Сёння беларусы — сацыялістычная нацыя, кампактна расселеная на тэр. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, і складаюць асноўную частку яе насельніцтва (79,4 % паводле перапісу 1979). Высокі ўзровень кансалідацыі бел. сацыялістычнай нацыі спалучаецца з інтэнсіўнай інтэграцыяй з другімі этнасамі Савецкага Саюза ва ўсіх сферах жыцця. Працэсы сацыялістычнай інтэграцыі, выпрацоўка агульнасавецкіх форм жыцця з'явіліся важнымі фактарамі стварэння ў СССР новай гістарычнай супольнасці людзей — савецкага народа.

*В. К. Бандарчык.*



**АБАРО́Г**, лёгкае збудаванне для захоўвання сена. Лакальная назва блясоўка. Уяўляе сабой рухомую на 4 слупах стрэшку, накрытую саломай або дранкай. Зрэдку А. знізу абгароджвалі. Бытаваў на Беларусі здаўна. Быў найбольш пашыраны ў Віцебскай і Брэсцкай абл.





Абарогі.

**АБВА́РА**, раствор (баўтуха) для загартоўвання распаленага да чырвані ў ганчарнай печы глінянага посуду. Лакальныя назвы паджога, пажога. Рабілі ў выглядзе рэдкай рошчыны з жытняй ці пшанічнай мукі на вадзе, часта з дабаўленнем бурачнага ці капуснага расолу, дамешкам ільняной ці канапляпай трасты, тоўчанага драўнянага вугалю, сажы. У 19 — пач. 20 ст. ўжывалася гал. чынам вясковымі ганчарамі Паўн. і Цэнтр. Беларусі. Гл. таксама арт. *Гартаваная кераміка.*

**АБГАНЯ́ЛКА**, земляробчая прылада для пракладкі міжрадковых разор і акучвання бульбы; тое, што і *акучнік.*

**АБЕ́ЧАК**, лубяны абадок у рэшаце, сіце.

**АБІВА́ЛКА**, ачышчанае бервяно на чатырох ножках для абівання збожжа. Для абівання снапоў выкарыстоўвалі яшчэ А.-рапотку, якая складалася з доўгіх брускоў. Пярэдняя яе частка ставілася на ножкі. Для абівання жыта, ільну і інш. культур выкарыстоўвалі козлы, калоду, барану і інш.

**АБІЯ́НІК**, шугалея, лодка, выдзеўбаная з дубовага ствала, з набітымі дашчанымі бартамі. Грузападымальнасць 1,5—4,5 т. Мела паветку (з рагожы, палатна або скуры). У яе канструкцыі адлюстраваўся пераход ад *аднадрэвак* да дашчаных лодак. Была распаўсюджана на Палессі, выйшла з ужытку ў пач. 20 ст.

**АБКІДА́ННЕ**, від *вышыўкі*, што прызначаўся для ўмацавання краёў вырабаў, зрэзаў тканіны, скразных прасветаў у ажурным шыцці. Лакальныя назвы зубленне, зубкаванне. Асаблівай разнастайнасцю спосабаў і дэкаратыўнымі якасцямі вылучаецца палескае А., якім аздаблялі наміткі, падолы кашуль, фартухоў, краі каўняроў і каўнерцаў.

**АБЛА́ВА**, паляванне, пры якім месца, дзе знаходзіцца звярына, акружаюць, ачэпліваюць паляўнічыя і загоншчыкі. Вядома з даўніх часоў. У наш час А. наладжваецца гал. чынам на ваўкоў і дзікоў.

**АБЛАВУ́ХА**, традыцыйная мужчынская шапка-вушанка з аўчыны або заечага, лісінага, вавёрчынага ці трусінага футра, пацягнутая зверху цёмным сукном. Да асновы яе прышывалі 4 крылы (вушы), пярэдняе і задняе паднімалі і звязвалі зверху, бакавыя апускалі ці падвязвалі пад падбародкам. А. насілі на Беларусі да пач. 20 ст.

**АБЛО́ГА**, неапрацаваная зямля; даўно не воранае поле, пакрытае дзірванам, травой. Лакальная назва аблажына.

**АБЛЯМО́ЎКА**, 1) абшыўка краёў адзежы інш. матэрыяламі, традыцыйны спосаб упрыгожвання народнага касцюма. Аблямоўвалі жаночую і мужчынскую суконную і аўчынную вопратку, безрукаўкі, галаўныя ўборы, падолы спадніц, фартухоў. У наш час выкарыстоўваецца ў прамысловай вытворчасці. 2) Матэрыял, якім аблямоўваюць (тасьма, стужкі, шнуры, скура, фабрычныя тканіны і інш.).

**АБО́З**, чарада фурманак, падвод з людзьмі або паклажаю ў дарозе.

**АБО́ЗНЯ**, халодная будыніна для хавання калёс, драбін, саней і інш. прылад.

**АБО́РА**, 1) старадаўняя гаспадарчая пабудова для кароў. На Беларусі ў 16—пач. 20 ст. будавалі з бярвёнаў, брусоў, дыляў «у вянок» і «заметам у шулы», а таксама з плеценымі з лазовых дубцоў сценамі, накрывалі часцей саломай. У заможных сялянскіх гаспадарках А.— вял. хлеў. У фальварках А. ўяўлялі сабой комплексы згрупаваных вакол прамавугольнага ў плане двара 4—8 *хлявоў* (з асобнымі варотамі ў кожным), злучаных адзін з другім у суцэльную забудову. Такі комплекс нярэдка злучаўся варотамі з падворкам, выганам, прыгуменнем. У такіх А. вылучалі памяшканні для цельных кароў і маладняку, для птушак, маглі ўваходзіць таксама стайні, жылыя і гасп. будынкі для парабкаў. 2) Дзяннік — частка загароджанага двара, прызначанага для дзённага ўтрымання хатняй жывёлы. Найбольш пашыраны на Віцебшчыне. 3) Выгараджаны на выпасах загон для жывёлы.

*У. С. Гуркоў, Ю. А. Якімовіч.*

**АБО́РА**, вяровачка з пянькі, лёну ці раменны пасак для прымацоўвання лапця і анучы. На Палессі вяровачныя А. часта фарбавалі ў чорны колер (іншы раз звівалі з чорнай шэрсці); «Цяцёрка ў чорных аборках» — казалі пра сялянскую франціху. На Маларытчыне вядомы А. з конскага воласа. А. працягвалася (забарсвалася) праз вушкі лапця (забарсні), абкручаная анучай ступня зацягвалася А. у пад'ёме і закручвалася накрыж да сярэдзіны галёнкі (на Пн Беларусі мужчыны карысталіся кароткімі А., якія закручвалі толькі да шчыкалаткі). На Тураўшчыне жанчыны намотвалі А. шчыльна, без прамежкаў.

*Н. І. Буракоўская.*



Абівалкі.

**АБРА́ДАВАЕ ПЕ́ЧЫВА.** Пяклі да сямейных і каляндарных свят і абрадаў — ім сустракалі і частавалі гасцей, яго неслі ў поле, ідучы першы раз сеяць, пакідалі ў полі на дажынках, давалі свойскай жывёле, каб добра вялася, ім клікалі вясной буслоў і г. д. На радзіны звычайна пяклі жытнія пірагі (дарылі бабкам-павітухам), якія з жартамі ламалі, каштавалі на смак,

елі з баршчом за святочным сталом. Жанчын, што ішлі ў *адведкі*, частавалі пірагамі (на Брэстчыне захавалася стараж. назва такога пірага — скрушок). На вяселле акрамя *каравая* пяклі святочныя пшанічныя пірагі маладым — месяц, падручнік, крыж (булка з крыжам). Падручнік і крыж пяклі для маладой, з імі яна ехала да маладога і клала на века дзежкі свекрыві. Памінальнае печыва заўсёды было прэсным (мёртвы хлеб) — *корж, гарачыкі, галушкі*. Корж і гарачыкі крышылі ў *канун*, «па крошцы» раздавалі ўсім прысутным за жалобным сталом. На каляды пяклі житнія пірагі-каляднікі, якімі звычайна абдорвалі калядніκаў. На саракі выпякалі 40 піражкоў (галушак, варэнікаў) з макам або з фасоляй (на Палессі іх называлі саракі, бапкі). Сярод вялікага посту пяклі храсцы-крыжыкі, саху, барану (булку, абкладзеную шышкамі), якія бралі ў поле, ідучы сеяць. На благавешчанне пяклі пампушкі, *галёпы*, якімі сустракалі буслоў, на вялікдзень — здобныя пірагі (паскі, калачы). На Юр'я на Палессі пяклі расянік і хадзілі з ім вакол жыта (Пружаншчына), а ў Бярозаўскім р-не гатавалі піражокюрок, ішлі з ім на поле і клалі ў жыта: калі жыта яго не пакрывала, то гэта прадказвала дрэнны ўраджай. У некаторых мясцовасцях на Юр'я ішлі ў поле з хлебам і інш. частаваннем. На святы пяклі таксама варэнікі з хлебнага цеста з макам або канапляным семем (на Варвару, Міколу), каржы з мёдам (напярэдадні купалля). *Г. Ф. Вештарт.*



Абкіданне краю каўнерца. Вёска Руховічы Кобрынскага раёна.

**АБРА́ДАВАЯ ПАЭ́ЗІЯ,** фальклорныя творы, што суправаджалі сямейныя і каляндарна-земляробчыя *абрады*; неад'емная частка *духоўнай культуры* народа. Паводле тэматыкі і прызначэння падзяляецца на *сямейна-абрадавую паэзію* і *каляндарна-абрадавую паэзію*. Характарызуецца багаццем зместу, разнастайнасцю і дасканаласцю формы. Акрамя песень уключае прыказкі, прымаўкі, рацэі-прыгаворы, віншаванні-зычэнні і інш. У значнай меры прадвызначае адметнасць бел. фальклору, яго агульнакультурную эстэтычную каштоўнасць. Узнікла ў першабытным грамадстве і захавала элементы язычніцкай рэлігіі (анімістычныя, татэмістычныя, антрапамарфічныя ўяўленні). Адыгрывала значную ролю ў арганізацыі сямейнага і працоўнага жыцця чалавека. *А. С. Ліс.*

**АБРА́ДАВЫ КАСЦЮ́М,** адзін з важных кампанентаў традыцыйнай і сучаснай абраднасці беларусаў. У шырокім сэнсе ўключае адзенне, галаўны ўбор, абутак, упрыгожанні і інш. аксесуары, што прызначаюцца для нашэння ў час пэўнага абрадавага дзеяння (гл. *Абрады*). Характар абраду вызначаў матэрыял і тэхнічныя сродкі выканання касцюма, мастацкае аздабленне, асаблівасці апранання, нашэння, распранання. А. к. цесна звязаны з духоўным жыццём народа, з яго звычаямі, рэлігійна-магічнымі, эстэтычнымі ўяўленнямі.

А. к. спалучае некалькі функцый. Важнейшыя з іх — абрадавая, знакавая (знакі маёмасных, сацыяльных адрозненняў, канфесіянальнай, нацыянальнай, рэгіянальнай, лакальнай прыналежнасці, полаўзроставай, сямейнай дыферэнцыяцыі і інш.), святочная, эстэтычная, практычная (у асобных выпадках А. к. ці яго састаўныя часткі не маюць ніякага практычнага значэння), вытворчая (у абрадах аграрнага цыкла), магічная і інш. Для А. к. характэрна шматзначнасць магічнай сімволікі. У бел. А. к. прасочваецца апатрапейная (гл. *Апатрапей*) сімволіка



Аблавуха.

(пакрывала маладой, выкарыстанне маладымі футравага або суконнага адзення, ужыванне ў пахавальным касцюме чырвоных ніток замест абор), кантактная магія (надзяванне маладым кашулі, пашытай і ўпрыгожанай нявестай; адзенне бацькі ў радзінным абрадзе). А. к. вясенне-летняга цыкла з ужываннем зеляніны павінен быў спрыяць урадлівасці. З гэтай жа функцыяй звязана і старажытная семантыка чырвоных ромба-геаметрычных узораў на кашулях жанчын, звычай рытуальнага пераапранання ў адзенне іншага полу.

У традыцыйнай абраднасці беларусаў ужываліся спецыяльна падрыхтаваны касцюм або святочнае і штодзённае адзенне, якое дапаўнялася асобнымі элементамі і атрыбутамі. У бел. вяселлі асаблівая ўвага надавалася галаўному ўбору і прычосцы дзеючых асоб. Ва ўбранні *маладой* вянчальным уборам быў самаробны або куплены вянок з зялёнай руты, барвінку ці мірту, з жывых ці сухіх штучных вошчаных ці папяровых кветак. Ззаду да вянка прымацоўваліся разнаколерныя стужкі ці вэлюм. Каса ў маладой звычайна была распушчаная. Пасля вянчання каса падбіралася пад галаўны ўбор, надзяваўся чапец, завязвалася наміткa або хустка. У некаторых рэгіёнах правую або левую руку маладой перавязвалі ручніком, які не здымаўся на працягу ўсяго вяселля. Характэрнымі элементамі А. к. *маладога* былі світка, аўчынная шапка, упрыгожаная вяночкам з зеляніны ці чырвонай стужкай, шыйная хустка. Маладым і дружкам прышпільваліся кветкі на грудзях. Асобныя знакі — ручнікі, павязаныя праз плячо, чырвоныя стужкі, галінкі з кветкамі, прышытыя да шапак, своеасаблівы галаўны ўбор вылучалі *шафера, маршалка, свата і сваццю, дружак*. На Кобрыншчыне галаўны ўбор сваццi, напр., меў выгляд шапачкі з двума пучкамі пафарбаванага птушынага пер'я. Атрыбутам А. к. старшага свата быў бізун і ручнік, павязаны праз левае плячо пад правую руку. У пахавальных абрадах шырока ўжывалася традыцыйнае адзенне, а таксама спецыяльна падрыхтаваны святочны або вянчальны касцюм. Мужчынам закладвалі за пояс нож, кашалёк з грашыма, у труну клалі шапку. Маладую дзяўчыну адзявалі як пад вянец. Адна з асаблівасцей А. к. каляднага, масленічнага перыяду — пераапрананне пад жывёл, персанажаў бытавога характару, «нячыстую сілу». У А. к. вясенне-летняга цыкла шырока выкарыстоўвалася разнастайная зеляніна. На купалле плялі і надзявалі на галаву вянкі з кветак і аржаных каласоў, «вадзілі куст» — дзяўчыну, упрыгожаную зялёнымі галінкамі, кветкамі, вянкамі. Асаблівасць А. к. перыяду ўборкі ўраджаю — перавясла са жмені жыта, вянок з лепшых каласоў, кветак і траў. У сучасных звычаях і абрадах адначасова з аслабленнем або знікненнем рэліг.-магічнай сімволікі прыкметна павялічваецца

значэнне эстэтычнай функцыі А. к. У развіцці сучаснага А. к. з аднаго боку прасочваецца зблізкэнне з традыцыйным гарадскім касцюмам, з другога —назіраецца арыентацыя на мясцовыя традыцыі нар. культуры. Суадносіны агульнасавецкіх і этнічных прыкмет у А. к. па-рознаму праяўляюцца ў розных рэгіёнах, сярод пэўных сацыяльных і прафесіянальных груп. Найбольшая стойкасць традыцый характэрна для сучаснага вясельнага і асабліва пахавальнага А. к. Маладую дзяўчыну і ў наш час хаваюць у вясельным касцюме. Пры жалобе жанчыны надзяваюць чорны галаўны ўбор, часам — і чорныя панчохі, адзенне. Новыя А. к. створаны для арганізатараў абрадаў шлюбу, імянарачэння, пахавання. *В. Я. Фадзеева.*

**АБРА́ДАВЫЯ СТРА́ВЫ.** Гатавалі да пэўных сямейных або каляндарных свят і абрадаў. Старажытныя традыцыйныя А. с.— *каша, бліны, аладкі, хлеб* і інш.— выконвалі знакавую функцыю і звычайна суправаджалі магічныя абрадавыя дзеянні. Каша з цэлага зерня (ячменнага, прасянога і інш.) — неад'емная частка радзіннага, вясельнага, памінальнага, каляднага, жніўнага абрадаў. Цэнтр. месца ў святкаванні радзін адводзілася *бабінай кашы.* На другі дзень вяселля кашу падносілі маладой (гл. *Салодкая каша).* На памінкі варылі салодкую ячную кашу, якую павінен быў пакаштаваць кожны, а таксама рытуальную памінальную страву — *канун.* Галоўнай А. с. каляднага святкавання была *куцця* (каша з цэлага аброўчанага ячменю). Куццю абносілі вакол хаты, ставілі на покуць, каб паспрыяць будучаму ўраджаю, верх з яе аддавалі курам, каб добра несліся. Гаспадар або старэйшая жанчына клікалі на посную куццю мароз, загаворваючы, каб ён не марозіў «ні кійкоў, ні гуркоў, ні аратараў старых, ні пагонічаў маладых» (Гродзеншчына). Куцця, як і бліны, была атрыбутам калядпай варажбы. На Палессі (Лельчыцкі р-н) жытнюю кашу бралі з сабой, як ішлі першы раз жаць,— нажаўшы на першы сноп, тры разы бралі ў рот гэтай кашы, астатнюю вывкладвалі ў сноп і завязвалі яго. З рытуальнай сімволікай ураджаю звязаны і велікодныя стравы: рэшткі асвячоных у царкве яек, пірагоў, кумпяка (косці) закопвалі на сялянскіх загонах. Адно велікоднае яйка захоўвалі да пачатку сяўбы (яго бралі з сабой, ідучы першы раз сеяць). Асаблівая магічная сіла надавалася блінам і аладкам, якія сімвалізавалі сонца і яго гадавы круг (бліны былі абавязковай стравай на масленіцу і калядах). Да А. с. адносяцца таксама звычайныя паўсядзённыя стравы, якія традыцыйна гатуюць у пэўныя святочныя або памінальныя дні. На посную куццю (акрамя куцці) варылі посны бурачны боршч (квас), падкалочаны мукой або рошчынай, з грыбамі ці алеем, крупнік, аўсяны *кісель, узвар* з сушаных яблыкаў, груш, сліў, пяклі бліны ці аладкі, ламанцы з цёртым макам (гл. *Лазанкі*); на багатую куццю — бліны з салам і *каўбасой,* боршч з мясам, крупнік, куццю з салам (спявалі: «Прыпясла каляда рашато бліноў да начоўкі сачнёў»). На масленіцу, акрамя бліноў, абавязковымі былі сыр і масла, на вялікдзень — яйкі, сыр, масла, сала, на магчымасці — кумпяк, парася, на купалле варылі *кулагу.* На памінальным стале (на дзяды, радаўніцу) абавязкова былі боршч з мясам, сытая каша, каўбаса, бліны. Гл. таксама арт. *Абрадавае печыва.* *Г. Ф. Вештарт.*

**АБРА́ДАВЫЯ ТКАНІ́НЫ,** адзін з матэрыяльных атрыбутаў традыцыйнай абраднасці беларусаў. У якасці А. т. выкарыстоўвалі даматканыя, фабрычныя тканіны і разнастайныя вырабы з іх (прадметы адзення, ручнікі, абрусы, посцілкі і інш.). Маглі быць тканіны, спецыяльна выробленыя для пэўнага абраду (гл. *Аброчныя тканіны*), і прадметы штодзённага ці святочнага ўжытку, што набывалі абрадавую функцыю толькі ў пэўным абрадзе. Характар абраду вызначаў абставіны, час і спосаб вырабу тканіны (гл. *Абыдзённік*), наяўнасць ці адсутнасць дэкору, асаблівасці арнаментальнага аздаблення, каларыстычных спалучэнняў (напр., перавага белых ці чорных колераў у жалобных, пасцяных тканінах). А. т. выконвалі некалькі функцый: сацыяльна-эканам. (замер пасагу, колькасны склад атрыбутаў нябожчыка), знакавую (вывешванне ручніка як знака жалобы), эстэтычную (узорыстыя тканіны ў вясельным абрадзе), вызначалі нацыянальную або рэгіянальную прыналежнасць. А. т. звязаны з магічнай сімволікай. Сімвалам злучэння служылі ручнік-падножнік, а таксама ручнік, якім звязвалі маладых на вяселлі. Засцерагальнае значэнне мела ахвяраванне тканін на прыдарожныя, надмагільныя крыжы (гл. *Апатрапей*). З сімволікай урадлівасці звязана ахвяраванне ўзорыстых тканін бярозе як духу расліннасці ў вясенне-летніх абрадах. Гл. таксама арт. *Абрадавы касцюм.* *В. Я. Фадзеева.*

**АБРА́ДЫ,** сукупнасць традыцыйных умоўных дзеянняў, што сімвалічна выражаюць і замацоўваюць адносіны людзей да прыроды і паміж сабою, іх паводзіны ў важных жыццёвых сітуацыях, якія сістэматычна паўтараюцца. А.— састаўная частка традыцыйна-бытавой культуры народа. Утрымліваюць у сабе элементы песеннага, харэаграфічнага, драматычнага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Зарадзіліся ў першабытным грамадстве, калі людзі імкнуліся заклінаннямі ўздзейнічаць на незразумелыя ім з'явы прыроды. Былі звязаны з гаспадарчай дзейнасцю, бытавымі ўмовамі, грамадскімі адносінамі і падзяляліся на каляндарна-вытворчыя (земляробчыя, паляўнічыя, жывёлагадоўчыя, рыбалоўныя), сямейна-бытавыя (вясельныя, радзінныя, пахавальныя), грамадскія і царкоўныя.



**Абрады.** Праводзіны зімы ў рабочым пасёлку Глуша Бабруйскага раёна. 1987.

Большасць бел. А. старажытнага паходжання ўзніклі на агульнай усх.-слав. глебе. Старажытная абраднасць ляжыць у аснове *каляндавання, масленіцы,* шчадравання, валачобніцтва (гл. *Валачобнікі*), абрадаў купальскай ночы (гл. *Купалле*) і інш. Многія А. звязаны з культам продкаў *(дзяды, радаўніца),* расліннасці. Асаблівасць бел. А.— пераплеценне ў іх аграрна-бытавых, язычніцкіх і хрысціянскіх элементаў. Царква імкнулася забараніць нар. А. або прыстасаваць іх да патрэб рэлігійнага культу, асобным А. *вяселля, радзін, пахавання* і інш. надаць рэлігійны змест. А. ў аснове сваёй захавалі нар. спецыфіку і нацыянальны каларыт, суправаджаюцца песнямі, танцамі, замовамі, *карагодамі,* пераапрананнем *(«каза», «жорай», «дзед», «цыган»* і інш.). У іх прысутнічаюць элементы тэатралізаванага дзеяння (гл. *Народны тэатр*). З імі звязана *каляндарна-абрадавая паэзія* і *сямейна-абрадавая паэзія.* З цягам часу А. трацілі першапачатко-

вае значэнне, роля рэлігійных элементаў у іх паступова змяншалася, яны пераходзілі ў разрад гульняў, святочных забаў і захоўваліся пераважна ў вёсцы.

А. земляробчыя, цыкл замацаваных звычаямі ўмоўных сімвалічных дзеянняў, звязаных з працоўным годам земляроба. Узніклі ў першабытным грамадстве ў перыяд развіцця *земляробства.* У сувязі з пастаяннай паўторнасцю с.-г. работ і прыстасаванасцю іх да пэўных дат або перыядаў земляробчыя А. прынята называць каляндарнымі. Падзяляліся на зімовыя — звязаны са святкаваннем *каляд, масленіцы, грамніц;* вясновыя — *гуканне вясны,* першы выхад у поле; летнія — звязаны са святкаваннем купалля, *зажынак, дажынак;* восеньскія — са святкаваннем *спаса, багача, пакровай.* Яны напоўнены музыкай, песнямі, танцамі. Нар. традыцыі надавалі ім своеасаблівы каларыт і нацыянальную спецыфіку. Сав. земляробчыя А. выражаюць і замацоўваюць асобую форму калектыўных адносін людзей, узвышаюць працу земляроба, услаўляюць чалавека працы, прыгажосць прыроды. Многія элементы ў земляробчых А. страцілі ранейшае значэнне, бо менш звязаны з вытворчымі працэсамі, элементы міфалогіі ператварыліся ў сімвалы, характэрныя для гульняў. Новы змест і новае афармленне набылі традыцыйныя нар. А. пачатку і заканчэння веснавых палявых работ (*Свята першай баразны,* Свята вясны, Свята працы, *Свята песні*), зажынкі і дажынкі (Свята першага снапа, *Свята ўраджаю*) і інш. На змену традыцыйнай масленіцы прыйшлі Свята зімы, Праводзіны зімы.

А. савецкія, прысвечаныя знамянальным падзеям у грамадскім, працоўным і сямейным жыцці, сфарміраваліся на аснове сацыялістычнай вытворчасці і грамадскіх адносін. Як частка сацыялістычнай культуры яны адыгрываюць важную ролю ў ідэйнапаліт., працоўным, атэістычным, маральна-этычным і эстэтычным выхаванні, з'яўляюцца папулярнай формай святочнага адпачынку. Уключаюць і элементы традыцыйных А., што пазбавіліся рэлігійнай містыкі, набылі змест і форму, адпаведныя светапогляду сав. чалавека, росту культуры. Значная колькасць А. звязана з міжнар., агульнадзяржаўнымі і рэспубліканскімі *святамі і святочнымі днямі.* У ліку абрадавых дзеянняў — ваенныя парады, дэманстрацыі і мітынгі працоўных, салюты і феерверкі, ганаровыя варты, мінуты маўчання, ускладанні вянкоў і кветак да помнікаў У. І. Леніну, героям Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў, да курганоў Славы, Вечнага агню, брацкіх магіл, урачыстыя перадсвяточныя вечары, ушанаванне ветэранаў Вял. Айч. вайны, нар. гулянні і карнавалы ў парках культуры і адпачынку. У хатніх умовах святкаванні суправаджаюцца падарункамі, запрашэннем гасцей, застоллем, песнямі і танцамі. Спецыяльнымі А. адзначаюцца этапныя моманты ў працоўным і грамадскім жыцці сав. чалавека: першы званок у школе, прыём у акцябраты і піянеры, уступленне ў камсамол, апошні званок і выпускны вечар у школе, пасвячэнне ў грамадзянства, грамадзянскае паўналецце, провады ў Сав. Армію, атры-

**Абрады.** Рэгістрацыя нованароджанага ў вёсцы Вузла Мядзельскага раёна. 1986.

Купалле на р. Піна. 1985.

Дажынкі ў калгасе «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна.

манне першай зарплаты, пасвячэнне ў рабочыя, хлебаробы, культурна-асветныя работнікі, студэнты, працоўныя юбілеі, провады на заслужаны адпачынак. Пашырана ўшанаванне пераможцаў у сацыялістычным спаборніцтве, працоўных дынастый. Непарушнаму саюзу рабочага класа і калгаснага сялянства, іх таварыскай узаемадапамозе прысвячаюцца абрады Свята сярпа і молата. Ва ўрачыстых абставінах адбываецца ўвод у эксплуатацыю прамысловых прадпрыемстваў, адкрыццё культурна-асветных устаноў і інш. Адзначаюцца юбілеі гарадоў, прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый, дні прафесій. Уваходзяць у грамадскі побыт *Свята горада, Свята вёскі, Свята вуліцы*, свята дамоў. Навагодняя сав. А. ў рэспубліцы спалучаюцца са святкаваннем дня ўтварэння БССР і КПБ. Карэнным чынам змяніліся сямейныя А. Царкоўныя вянчанне і хрышчэнне саступілі месца ўрачыстай рэгістрацыі шлюбу і нованароджаных у Палацах культуры і *Дамах шлюбу*, Дамах грамадзянскіх абрадаў, загсах, адпяванне — жалобнаму мітынгу. Новыя элементы набылі дамашнія ўрачыстасці, прысвечаныя нараджэнню дзіцяці (А. радзін) і ўтварэнню сям'і (вяселле). Пашыраюцца святкаванні юбілеяў, залатых і сярэбраных вяселляў у клубах і Дамах сямейных урачыстасцей. Арганізацыя сучасных сямейных А. прадугледжвае барацьбу з такімі негатыўнымі з'явамі, як злоўжыванне спіртнымі напіткамі. Сав. А. спалучаюць інтэрнацыянальныя, агульнасав. і этнічныя рысы. Этнічная адметнасці на Беларусі выяўляюцца ў мастацкім афармленні, музыкальным і песенным суправаджэнні, у асаблівасцях нар. касцюма, некаторых абрадавых элементах.
*Л. І. Мінько, І. М. Браім.*

**АБРО́К**, 1) від феадальнай рэнты; натуральны або грашовы падатак, што спаганяўся з прыгонных сялян. На Беларусі пераважала *паншчына*, А. быў менш пашыраны. 2) Корм для коней, звычайна авёс. 3) Зарок, запавет — абяцанне, клятва, дадзеныя з рэлігійных ці інш. меркаванняў рабіць або не рабіць што-небудзь; тое, што ахвяруецца ці робіцца па зароку. Найбольш распаўсюджанай формай такога А. ў беларусаў былі ўзорыстыя тканіны (гл. *Аброчныя тканіны*).

**АБРО́ЦЬ**, вуздэчка, частка *вупражы* ці коннай амуніцыі для верхавой язды, што надзяваецца каню на галаву; выкарыстоўваецца і тады, калі каня вядуць на повадзе. Лакальная назва вобраць. Вядома з глыбокай старажытнасці. У паўсядзённым ужытку сялян часцей выкарыстоўвалася вяровачная А. Для выязной вупражы і коннай амуніцыі А. рабілі са скуры, упрыгожвалі ажурным перапляценнем, бліскучымі металічнымі накладкамі, махрыстым налобнікам, кутасамі; яна мела жалезныя цуглі, шоры. Пры верхавой яздзе сродкам кіравання з'яўляюцца павады, пры запрэжцы ў воз — *лейцы*, якія мацуюць да А. *В. С. Цітоў.*

**АБРО́ЧНЫЯ ТКАНІ́НЫ**, абракаНЫЯ (абракоўныя) тканіны, від *абрадавых тканін*, што выраблялiся па зароку ў крызісных сітуацыях (хвароба, вайна, эпідэміі і інш.) і выконвалі функцыю ахвяравальных дароў, *апатрапеяў*. Звычайна самыя прыгожыя А. т. ахвяравалі на крыжы, што стаялі на абочынах ці на скрыжаваннях дарог, каля крыніц, на могілках, на *прошчы*, пазней іх вешалі на абразы ў цэрквах, касцёлах, капліцах. Найчасцей А. т. былі ўзорыстыя ручнікі, а таксама фартушкі, абрусы, хусткі, стужкі. Выкарыстанне А. т. звязана з дахрысціянскімі вераваннямі старажытных славян. Зрэдку сустракаюцца і ў наш час.
*В. Я. Фадзеева.*



Крыжы з **аброчнымі тканінамі**. Лельчыцкі раён.

**АБРУ́С**, настольнік, тканы, вязаны або плецены выраб, прызначаны для засцілання стала. Лакальная назва скацерка. Абавязковы атрыбут традыцыйнай сямейнай і каляндарнай абраднасці беларусаў (уваходзіў у *пасаг* нявесты, ім накрывалі стол на калядны, вялікдзень і інш. святы). Апрача утылітарнай і абрадавай, выконваў важную ролю ў дэкаратыўным афармленні *інтэр'ера* вясковай хаты.

А. (даўж. 1,5—2 м, шыр. 1—1,5 м) звычайна складаўся з адной або дзвюх сшытых полак ільнянай даматканіны, выкананай у тэхніцы двух-, шматнітовага бранага, ажурнага, пераборнага ткацтва. А. упрыгожвалі вышываным, набіваным арнаментам, аплікацыяй, карункамі, махрамі; нолькі часта злучалі паскам іголькатыя карункаў (рошва, распыўка), пазней карункавай прошвай, вязанай кручком. Вылучаюцца святочныя ўзорыстыя А. з каляровымі (пераважна чырвонымі) гладкімі ці арнаментальнымі палосамі па краях. Асобную групу складаюць вышываныя па плеценай, вязанай або тканай сетцы А., якія былі пашыраны ў 1930—40-я г. Пры стылявым адзінстве А. маюць пэўныя рэгіянальныя адрозненні ў тэхніцы ткання і прыёмах аздаблення, што складваліся на працягу стагоддзяў і перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Разнастайнасцю арнаменту, дэтальнай распрацоўкай узораў вызначаюцца тонкія льняныя 4-, 8-, 16-нітовыя А. Віцебшчыны (сустракаюцца паўажурныя А., з празрыстым вытанчаным малюнкам, і сеткавыя, вышытыя раслінным буйнарапортным паліхромным арнаментам). Для А. Магілёўшчыны характэрны простыя ўзоры, выкананыя ў сціплай каларыстычнай гаме. Багаццем арнаментальных форм, разнастайнасцю сродкаў аздаблення вылучаюцца А. Гомельшчыны. На неглюбскіх А. выразныя ўзоры асноўнага поля тканіны гарманічна спалучаюцца з дэкаратыўным шлякам бранага ткання, рамбічны арнамент якога паўтарае плеценая карункавая рошва. На Тураўшчыне А. аздаблялі раслінным арнаментам, вышытым крыжыкам (чырвона-чорнымі ніткамі) і яркай паліхромнай глад-





**Абрус.** Вёска Неглюбка Веткаўскага раёна.

**Абрус,** вязаны кручком. Лоеўскі раён. 1930-я г.

дзю. Дасканаласць прыёмаў аздаблення, тонкасць малюнка характэрны для калінкавіцкіх, лоеўскіх, нараўлянскіх А. У Зах. Палессі вылучаюцца тонкія драгічынскія А., тканыя з высакаякаснага адбеленага кужалю, паўажурныя камянецкія, іванаўскія А., дэкарыраваныя ляхавіцкія А., уся паверхня якіх заткана сакавітымі чырвонымі палосамі ўточных прокідак з шырокім шлякам па краі. Цікавыя мотальскія А., белае поле якіх падзелена каляровымі ніткамі асновы і ўтку на клеткі і палоскі з дапаўненнем некалькіх радоў раслінна-геаметрызаванага арнаменту. Тканыя А. Панямоння і Цэнтр. Беларусі рабілі стрыманымі па каларыту (пераважалі серабрыстыя адценні шэрага і адбеленага кужалю), бытавалі разнастайныя па тэхніцы ажурныя сеткавыя А. Сучасныя А. вырабляюць з ільняных, бавоўняных, шаўковых нітак. Лепшыя ўзоры бел. традыцыйных А. выкарыстоўваюцца мастацкімі промысламі.

*В. Я. Фадзеева.*



**Абрус.** Вёска Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна.



**Абрус.** Вёска Сычоўка Мсціслаўскага раёна. 1930-я г.

**АБСЫПА́ННЕ,** вясельны абрад, звязаны з магіяй павелічэння сям'і і забеспячэння яе дабрабыту. У некаторых мясцовасцях называлася абсяванне. Існавала ў 2 відах: маладых абсыпалі іх родзічы (сястра, маці або хросная маці, цётка); маладая сама абсыпала двор і хату ўласную і маладога. Для А. мяшалі жыта, авёс, гарох, хмель, пазней пачалі дабаўляць дробныя манеты, цукеркі. Першы раз абсыпалі маладых, калі іх адпраўлялі да *шлюбу*. Маці, замужняя сястра, хросная маці, цётка (часам дзяўчынка да 15 гадоў, прычым толькі ў хаце маладога), набраўшы зерня ў рэшата або ў фартух, станавілася на ўслон і сыпала на маладых, калі яны ішлі да шлюбу; пры гэтым выказвала пажаданне ім «шчасця-долі, прыбытку ў хаце, хлеве і полі». Гэтак жа адбывалася А. маладых у хаце, калі яны вярталіся са шлюбу, калі маладую адпраўлялі да маладога і калі маладу прывозіў яе да сваіх бацькоў. Пасля А. маладая дарыла абсыпальніцы стан, палатна, калі гэта была дзяўчынка — стужку, мужчыне, які здымаў абсыпальніцу з услона,— пояс ці што-небудзь іншае. На двары пры ад'ездзе і прыездзе маладых іх абсыпала маці-гаспадыня; калі не было маці або яна была ўдавою, А. рабіла родная цётка або хросная маці. Часам сват або дружкі паганялі абсыпальніцу канчуком (бізуном), і яна павінна была тройчы абегчы вакол калёс з маладымі або вакол усяго вясельнага поезда і абсыпаць іх. У некаторых мясцовасцях абрад А. зліўся з абрадам аблівання вадой. У гэтым выпадку маці сыпала авёс у вядро з вадой, мачыла венік і апырсквала вясельны поезд, тройчы абягаючы яго. Астатнюю ваду яна вылівала пад пярэднія колы воза, на якім сядзелі маладыя (у наш час — пярэднія колы аўтамашыны, на якой вязуць маладых). Маладая, прыехаўшы ад шлюбу, абсыпала двор і хату зернем, якое брала з сабой, завязаўшы яго ў рог хусткі або ў насоўку. Стоячы на возе, яна кідала правай рукой шышкі (гускі) і інш. дробнае печыва з каравайнага цеста (у наш час — цукеркі, баранкі), якія падбіралі дзеці. Пры ўваходзе ў хату маладога, як і ў сваю, маладая сыпала зерне па кутах, а на кожны рог стала і прыпечак клала булачку або шышку. Прысутныя імкнуліся ўзяць хоць крышку гэтага зерня, каб пасеяць яго ў час сяўбы.

*Л. А. Малаш.*

## АБУТАК

**АБУ́ТАК,** састаўная частка *адзення* чалавека, якая засцерагае ногі ад шкодных знешніх уздзеянняў. Адлюстроўвае ўмовы жыцця і спецыфіку матэрыяльнай культуры народа. На тэр. Беларусі гарбарна-шавецкае рамяство з часоў Кіеўскай Русі існавала як самастойная галіна гарадскога рамяства. Археалагічнымі раскопкамі выяўлены майстэрні тых часоў па апрацоўцы скуры і вырабу А. (Полацк, Мінск, Пінск). На працягу стагоддзяў асноўнымі тыпамі А. гараджан былі поршні, чаравікі, боты. Майстэрствам аздаблення вызначаліся жаночыя чаравікі. Іх вышывалі рознымі прыёмамі — шывок «назад іголкаю», «вяровачкай» і шыццё «гусём», пры якім усю паверхню чаравіка ўсцілаў геаметрычны арнамент. Больш просты ўзор складаўся з ліній, якія ўтваралі прамавугольнік або т. зв. прошву, больш складаны — са спалучэння кружкоў або т. зв. крынаў. Вышыты А. падшываўся тканінай. Некаторыя чаравікі кроілі з вытачкамі ў наску. Магнаты, гарадская знаць насілі А. з дарагіх матэрыялаў, вытанчаных форм, упрыгожаны спражкамі і бантамі і інш. З развіццём грамадства ўдасканальваліся тэхналогія шавецкага рамяства, прынцыпы аздаблення А. Выпрацоўка новых форм залежала ад мастацкага вобліку ўсяго ансамбля адзення, развівалася ў агульным еўрапейскім стылі. Нар. А. выраблялі ў хатніх умовах або спецыяльныя рамеснікі — *шаўцы*. Ён бытаваў у жыхароў вёсак і дробных мястэчак і лепш, чым А. гараджан, стасаваўся з прыродна-кліматычнымі ўмовамі, спецыфікай працы і заняткамі насельніцтва. Самы старажытны тып А. бела-



Скураны **абутак** 12—13 ст. З раскопак Полацка, Мінска, Гродна.

русаў складаўся з трох частак: абгортак, прывязак і ўласна А. Абгорткі (анучы, завойкі) — 2 полкі белага палатна (каля 150 см даўжынёю і 60 см шырынёю), якімі абгортвалі ногі. Абгортка ног да шчыкалаткі кавалкам палатна пры хадзе басанож была пашырана сярод жанчын, асабліва ў час жніва. З пач. 20 ст. сталі насіць вязаныя з воўны або фабрычныя панчохі. Прывязкі (*аборы*, валокі) вілі з пянькі, конскага воласу або наразалі са скуры. Мацавалі імі абгортку па-рознаму: на Тураўшчыне і Мазыршчыне доўгія (каля 6 м) прывязкі ўтваралі своеасаблівую вяровачную панчоху, на Пн Беларусі былі кароткія і абкручваліся да шчыкалаткі. Пашыраны колер прывязак шэры, чорны, чырвоны.

Уласна А. ў мінулым — плеценыя ці скураныя вырабы. Нязначнае распаўсюджанне мелі *дзеравяшкі*. Асноўны від плеценага А., які бытаваў да пач. 20 ст.,—*лапці* (шчарбакі, кавярзні). Іх плялі з лыка, пянькі, лазовай і вязавай кары. Найбольш вядомы лапці касога і прамога пляцення. Скураны А. падзяляўся на два віды: шыты з аднаго кавалка скуры — *пасталы* і з прышытай падэшвай і абцасам — *боты*, чаравікі. Святочным мужчынскім і жаночым А. былі таксама боты-выцяжкі («чобаты»). Дыхтоўнасцю, пластычнай выразнасцю і адметнай аздобай вылучаліся боты наваколляў Турава і Давыд-Гарадка. Іх кроілі з суцэльнага кавалка чорнай ці вохрыстай ялавай скуры, змацоўвалі ззаду швом. Высокія халявы (да 50 см і вышэй) у месцы пераходу да ступні прыгожа перахопліваліся гафрыраваным накшталт гар-



Старадаўняе арнаментальнае аздабленне **абутку**.

моніка паскам, а верхняя частка мела шырокія дэкаратыўныя адвароты-крагі; да пластычна вытачаных абцасаў прыбіваліся металічныя падкоўкі. Усюды насілі і боты з асадкай халяў у простыя зборкі. На святы жанчыны абувалі і чаравікі (боцікі, *шнуроўкі*). Іх шылі з завостраным наскам, невысокімі халяўкамі і вышэйшымі, чым у мужчынскіх ботах, абцасамі; спераду (часам збоку) шнуравалі тонкім раменьчыкам ці шнуркамі. Майстэрствам вырабу ботаў у 19— пач. 20 ст. славіліся шаўцы Петрыкава. Валены А. *(валёнкі)* з воўны чорнага, карычневага, белага і шэрага колеру набыў пашырэнне з канца 19 ст. і бытуе да нашых дзён. Гумавы А. *(бахілы)* пачалі насіць у 1930-я г. Чырвоныя і чорныя бахілы (глыбокія галошы) надаявалі звычайна на *буркі*. У сав. час выйшлі з ужытку лапці, пасталы і інш. няякасныя віды А., змяніліся і ўдасканаліліся больш якасныя віды, знікла розніца ў А. гарадскіх і вясковых жыхароў. Патрэбы насельніцтва задавальняе абутковая прамысловасць, якая выпускае А. рознага прызначэння і шырокага асартыменту. *М. Ф. Раманюк.*

**АБЦУГІ**, клешчы, 1) кавальскі інструмент для захоплівання і заціскання жалезных вырабаў пры іх апрацоўцы. Распаўсюджаны А. абушныя (з паўкруглымі губамі) і звычайныя (з пляскатымі прамымі губамі-захопамі). 2) Драўлянае заціскное паляўнічае прыстасаванне, што выкарыстоўвалася для выцягвання лісоў з нор праз адтуліну, выкапаную ў зямлі.

**АБШЧЫНА**, адна з форм сацыяльнай арганізацыі людзей. Узнікла ў першабытным грамадстве — спачатку складалася з кроўных родзічаў і характарызавалася калектыўнымі вытворчасцю і ўласнасцю на сродкі вытворчасці, поўнай роўнасцю яе членаў. Развіццё вытворчых адносін, павелічэнне прадукцыйнасці працы ў выніку грамадскага раздзялення працоўнай дзейнасці, узнікненне класаў і дзяржавы прывяло да паступовага распаду родавай А. У класавых дакапіталістычных грамадствах А. была адной з ніжэйшых сацыяльных ячэек, арганізаваных паводле саслоўнага і тэрытарыяльнага прынцыпу з поўным ці частковым самакіраваннем і калектыўным валоданнем некаторымі сродкамі вытворчасці, напр. зямлёй. У сярэднія вякі суседская (тэрытарыяльная) А. аб'ядноўвала гал. чынам сялянскае насельніцтва і была характэрнай для многіх еўрапейскіх краін. На Беларусі суседская А. называлася грамадой. Складалася з аднаго або некалькіх сельскіх пасяленняў, валодалаворнай зямлёй, пашамі, ляснымі ўгоддзямі і інш. Мела органы самакіравання (сельскі сход), выбарных асоб (староста, лаўнікі, дзесяцкія); існаваў абшчынны суд (гл. *Копны суд*). У межах А. рэгуляваліся адносіны паміж сялянамі, размяркоўваліся цяглавыя павіннасці, назапашвалася і перадавалася з пакалення ў пакаленне сацыяльна значная інфармацыя, каштоўныя традыцыі і г. д. Адносіны ў сялянскай А. рэгламентаваліся грамадскай думкай і *звычаёвым правам*, якое часта падмацоўвалася дзярж. правам. Характэрнымі рысамі грамадскага побыту А. былі каляндарныя святы і звычаі *(каляды, купалле, талака, вячоркі*, масавыя *ігрышчы* і інш.). А. ўплывала і на побыт сялянскай сям'і, яе звычаі і абрады. Развіццё феадалізму, якое суправаджалася ўзмацненнем прыгоннай сістэмы і знішчэннем калектыўнай уласнасці на сродкі вытворчасці, вяло да зніжэння сацыяльнай значымасці сялянскіх А., і яны паступова ператварыліся ў бяспраўныя прыдаткі дзярж. апарату. Гэты працэс на Беларусі паскорыўся пасля аграрных і адміністрацыйна-тэрытарыяльных рэформ 16 ст. (гл. *Валочная памера*). Разам з тым у перыяд позняга феадалізму

(17—18 ст.) абшчынныя формы адносін захаваліся ў арганізацыі валасцей (на У Беларусі), копных сходаў і судоў, сельскіх грамад, дворышчаў і інш. З пранікненнем у сельскую гаспадарку капіталістычных форм вытворчасці (19 ст.) пачалося канчатковае разбурэнне абшчынных адносін і арганізацый.

*М. Ф. Піліпенка, І. У. Чаквін.*

**АБШЫВА́НКА,** лодка, выдзеўбаная са ствала, з нашытымі для большай устойлівасці дашчанымі бартамі. У некаторых мясцовасцях А. называлі лодку, цалкам збітую (спытую) з дошак. Этымалогія слова «А.» бярэ пачатак з глыбокай старажытнасці, калі пры пабудове лодак дошкі не збівалі цвікамі, а сшывалі *віцамі*, якія працягвалі ў прасвідраваныя адтуліны. А. была пашырана да 20 ст. пераважна на Падняпроўі (у наш час А. называюць звычайную дашчаную лодку).

**АБЫДЗЁННІК,** ручнік ці кавалак палатна, вытканы калектыўна жанчынамі сяла на працягу дня (ад усходу да заходу сонца) ці ночы. Лакальныя назвы абдзённік, будзеннік, абудзенаўка. Згодна нар. вераваннем беларусаў навізна, а значыць асаблівая чысціня надавалі А. магічную сілу супраць засухі, граду, эпідэмій, эпізаотыі і інш. няшчасцяў. Ткалі яго ў 2—4 ніты (даўж. 3—6 і больш метраў), зрэдку вышывалі. Вешалі на прыдарожныя крыжы, абносілі вакол вёскі, праганялі праз разасланы А. дамашнюю жывёлу (часам самі людзі праходзілі пад ім); пазней яго ахвяравалі царкве. Выкарыстанне А. бярэ пачатак у язычніцкай рэлігіі ўсх.-слав. народаў і звязана з аграрнай, ачышчальнай апатрапейнай магіяй (гл. *Апатрапей*). У канцы 19—пач. 20 ст. гэты абрад захаваўся пераважна ў беларусаў, значна менш — у рускіх і ўкраінцаў. *В. Я. Фадзеева.*

**«АБЭ́РАК»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер 3-дольны. Тэмп хуткі. Асобныя фігуры — характэрныя пагойдванні ў кручэннях, абабяганне дзяўчынай вакол укленчанага кавалера і інш.— нагадваюць фігуры аднайменнага польск. нар. танца. Выконваецца неабмежаванай колькасцю пар, пастава рук у пары адвольная, але найбольш характэрнай лічыцца падтрымка (правая рука юнака злучана «кісць у кісць» з левай рукой дзяўчыны на ўзроўні таліі). Малюнак танца — круг, асн. рух — падэбаск (танцавальны рух у выглядзе нечаканай змены ног у скачку з наступным перасытупаннем), простыя і акцэнтаваныя крокі, павароты дзяўчыны пад рукой юнака і ў пары. У канцы 19 — пач. 20 ст. быў пашыраны ў паўн.-зах. абласцях Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*

**АБ'ЯДНА́ЛЬНЫЯ ЭТНІ́ЧНЫЯ ПРАЦЭ́СЫ,** гл. ў арт. *Этнічныя працэсы.*

**АГАРО́ДНІКІ,** сяляне, якія пасяляліся на невялікіх участках зямлі і выконвалі пэўныя павіннасці. Паводле «Уставы на валокі» 1557, А. надзялялі ўчасткамі зямлі па 3 моргі і ссялялі ў вёскі па 10—20 двароў недалёка ад фальваркаў. За надзел А. працавалі ў велікакняжацкіх ці памешчыцкіх маёнтках 1 дзень у тыдзень без каня, а іх жонкі — 6 дзён за лета. У час валочнай памеры (канец 30-х г. 16 ст.— сярэдзіна 17 ст.) у катэгорыю А. перавodзілі і *чэлядзь*. У 18—1-й пал. 19 ст. А. зваліся жыхары бел. вёсак і мястэчак, якія мелі толькі хату і агарод. Напярэдадні рэформы 1861 А. і *бабылі* — самыя бедныя прыгонныя сяляне. У 1848 у Віленскай і Мінскай губ. іх было адпаведна 6,9 і 9 % ад памешчыцкіх сялян, у Гродзенскай губ. у 1858—4,5 %.

**АГЛО́БЛІ,** канструкцыйны элемент гужавых транспартных сродкаў або ворыўных прылад, што служыць для злучэння іх з цяглавай сілай. Уяўляюць сабой пару жардзін (часцей з бярозы), прымацаваных канцамі да пярэдняй восі калёс ці да капылоў саней. Пры *запрэжцы* А. змацоўваюцца з дугой гужамі ад хамута і рэгулююцца па яе шырыні *атосамі*, для мацавання якіх на верхніх канцах А. з унутранага боку ёсць спецыяльныя металічныя насечкі. У выязных экіпажах А. нярэдка мелі авальны выгін у сярэдняй частцы, што стварала больш прасторы для запрэжанага каня. У сохах віцебскага і магілёўскага (падняпроўскага) тыпаў А. (вобжы) рабілі больш кароткімі, утвараючы адзінае цэлае з асноўнай канструкцыяй, да іх канцоў ад хамута мацаваліся пастронкі. На Усх. Палессі сустракалася пастронача запрэжка з дадатковай аглобляй, што служыла сродкам тармажэння на спусках.

**АГЛЯ́ДЗІНЫ,** адзін са звычаяў давясельнага абраду — *сватання*. Лакальныя назвы агледзіны, разглядзіны, умовіны, дамовіны. Пасля першых (малых) *запоін*, або малой гарэлкі, бацькі нявесты са сваякамі ездзілі да жаніха, каб агледзець яго гаспадарку і пазнаёміцца з умовамі, у якіх будзе жыць іх дачка. Для таго, каб у сватоў склалася добрае ўражанне пра жаніха, яго бацькі часам ішлі на падман: пазычалі ў суседзяў скаціну, пераварочвалі ўверх дном кадзі (кадушкі) і засыпалі дно жытам, каб зрабіць уражанне, што кадушкі поўныя. Пасля азнаямлення бацькі нявесты вырашалі, ці працягваць «перагаворы» пра шлюб. Калі рашэнне было станоўчым, яны прымалі пачастунак. У час застолля дамаўляліся пра *пасаг, заручыны* і інш. У выпадку адмовы бацькоў выдаць дачку яны вярталі жаніху выдаткі за запоіны. Часам у А. ездзілі бацькі жаніха са сваякамі, каб пазнаёміцца з нявестай (станам яе здароўя, здатнасцю да



**Агоўская размалёўка.** Пано. Вёска Крамно Драгічынскага раёна. Размалёўка па шкле. 1960-я г.



**Агоўскі куфар.** Вёска Крамно Драгічынскага раёна. Размалёўка В. Крэдзіч. 1950-я г.

работы), даведацца пра заможнасць яе бацькоў. У некаторых выпадках за А. нявесты бацькі жаніха або ён сам плацілі ёй грошы («аглядное»).

*Л. А. Малаш.*

**«АГЛЯ́ДЫ»**, традыцыйны танец. Выконваўся парамі, якія рухаліся па крузе. Характэрная рыса — несупыннае аглядванне тых, хто танцуе, то адзін на аднаго, то музыканта. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Брэсцкай вобласці.

**АГНІ́ШЧА**, вогнішча, адкрытая пляцоўка для распальвання і падтрымання агню. Лакальная назва агмень. Вядома з ранняга палеаліту. У познім палеаліце А. абкладалі камянямі, часам абмазвалі глінай. У многіх народаў А. лічылася свяшчэнным месцам жылля, іграла важную ролю ў сямейных абрадах абшчыны. І ў больш позні час А. служыла для вытворчых патрэб: у кавальскай справе, пры абпальванні ганчарных вырабаў і інш. У фальварках размяшчаліся ў кухнях, броварах і інш.; былі мураваныя або абкладваліся дрэвам. У ўсх.-слав. народаў на аснове А. ўзніклі камін і *печ.*

*У. С. Гуркоў.*

**АГО́ЎСКАЯ РАЗМАЛЁЎКА**, від народнай творчасці, пашыраны ў вёсках Агова, Опаль Іванаўскага, Здзітава, Жорнаўка, Спорава Бярозаўскага, Крамно Драгічынскага р-наў у канцы 19 ст.— 1960-х г.; традыцыйнае аздабленне алейнымі фарбамі мэблі, дываноў, шкляных пано-«карцінак», рамак для фотаздымкаў, тканін для ўпрыгожання інтэр'ера хаты і інш. Выконвалася на дрэве, шкле, палатне, цыраце, паперы. Асаблівай жывапіснасцю і хараством сакавітай паліхромнай размалёўкі, гармоніяй дэкору і формы вылучаюцца *агоўскія куфры.*

Размалёўка па шкле выявілася ў маляванні насценных пано-«карцінак» як самастойных твораў ці ў выглядзе ўпрыгожаных рамак для фотаздымкаў (майстры В. Бялевіч, Е. Васілеўская, Л. Доўгер, Н. Лапыцька). Яркія чырвоныя, блакітныя, жоўтыя, белыя кветкі, зялёнае лісце і сцяблінкі, часта абведзеныя па контурах чорнай лініяй, маляваліся на глыбокім чорным, часам сінім фоне. Тонкімі лініямі выразна ачэрчаны пялёсткі і пражылкі. Жывапіс нярэдка спалучаецца з аплікацыяй сярэбранай ці залацістай фольгі. У кампазіцыях, заключаных у драўляныя рамкі, раслінны ўзор пераходзіць на іх. Дываны на палатне, цыраце, паперы вылучаюцца сюжэтна-тэматычнымі кампазіцыямі свабоднай паліхромнай размалёўкі. Тканіны для ўпрыгожання інтэр'ера хаты аздаблялі набіваным па трафарэтах найчасцей блакітным ці чырвоным рытмічным узорам па белым паркалі ці палатне. Матывы А. р.— раслінныя (букеты, вазоны, кветкі, ягады, калоссе, яблыкі, грушы), зааморфныя (ластаўкі, сініцы, зязюлі, галубы), антрапаморфныя («паненка», «кавалер»), геаметрычныя (квадраты, ромбы, прамавугольнікі, хвалістыя і роўныя лініі), часта ўключалі надпісы (добрае пажаданне, прозвішча майстра, год стварэння вырабу). Стыль арнаменту, каларыт А. р. мелі шмат агульнага з паліхромнай аб'ёмнай вышыўкай гладдзю на адзенні, ручніках, падзорах для ложкаў, накідках для падушак. Сувеніры, рэчы хатняга ўжытку, мэбля, аздобленыя па матывах А. р., выраблюцца на Брэсцкай фабрыцы сувеніраў, Пінскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, майстрамі-надомнікамі.

*М. Ф. Раманюк.*

**АГО́ЎСКІЯ КУ́ФРЫ**, назва *куфраў*, вырабаў народных майстроў з в. Агова, Опаль Іванаўскага, Крамно, Заверша, Хомск Драгічынскага р-наў. Промысел узнік у пач. 20 ст., росквіту дасягнуў у 1950-я г. Паводле канструкцыі традыцыйныя А. к.: прамавугольная скрыня памерам прыкладна 110×80×60 см з пукатым векам, на 4 металічных ці драўляных колцах, з 2 ручкамі па баках. У пач. 20 ст. іх фарбавалі ў адзін колер, акоўвалі палосамі бляхі. У 1920—30-я г. пярэднюю сценку і века багата размалёўвалі (свабодная размалёўка ці пры дапамозе трафарэта). Палосамі *фляндроўкі*, што замяніла былую акоўку, плоскасць куфра падзяляецца на некалькі прамавугольнікаў, якія запаўняюцца расліннымі кампазіцыямі ў выглядзе букетаў, вянкоў, гірляндаў, вазонаў, лісця, гронак ягад, калосся, фруктаў, а таксама геаметрычнымі і зааморфнымі (ластаўкі, галубы). Фон звычайна цёмна-зялёны (Агова) ці блакітны (Крамно), палосы фляндроўкі белыя, колеры размалёўкі — вішнёвыя, блакітныя, жоўтыя, светла-зялёныя. Фарбы яркія, інтэнсіўныя без паўтонаў і пераходаў. Характар дэкору А. к. аналагічны інш. відам мясцовай размалёўкі (гл. *Агоўская размалёўка*) ці аздабленню адзення, ручнікоў, дываноў. Кампазіцыі размалёўкі маюць сэнсавы падтэкст, які выражае добрыя запаветы і пажаданні, часта напісаныя на пярэдняй сценцы куфра. Бакавыя і задняя яго сценкі звычайна размалёўваюць фляндроўкай у выглядзе касой сеткі. Традыцыйна існавала раздзяленне вытворчых працэсаў: мужчыны выконвалі сталярныя і кавальскія работы, жанчыны — размалёўку. Сярод майстроў вядомы Пётр і Тацццяна Доўгеры, А. Жыдко, Д. Пісарчук і інш. У пач. 1960-х г. промысел прыйшоў у заняпад, у 1970-я г. адроджаны (у 1978 у в. Агова створаны філіял Брэсцкай ф-кі сувеніраў). Майстры выраблюць невялікія сувенірныя куфэркі, размаляваныя ў нар. традыцыях. Яны экспанаваліся на многіх выстаўках нар. мастацтва ў краіне і за мяжой, захоўваюцца ў Дзярж. музеі БССР, Дзярж. мастацкім музеі БССР, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР, музеі нар. архітэктуры і побыту.

*Я. М. Сахута.*



**Агоўскі куфар.** Вёска Крамно Драгічынскага раёна. Размалёўка М. Юрашэвіча. 1943.



**Агоўскі куфар.** Вёска Агова Іванаўскага раёна. Размалёўка Т. Доўгер. 1950-я г.

**АДАПТА́ЦЫЯ** (ад позналац. adaptatio прыстасаванне), у этнаграфіі — прыстасаванне чалавека або этнічнай групы да кліматычных, геаграфічных, сацыяльна-эканамічных, культурна-бытавых і інш. умоў жыцця, што ўплывае на

станаўленне пэўнага ладу жыцця, псіхалогіі, культуры. Пачатковы этап аб'яднальных этнічных працэсаў. Вызначаецца дзейснай, актыўнай прыродай чалавека, яго мэтамі, сацыяльнымі нормамі, спосабамі іх дасягнення і санкцыямі за парушэнне гэтых норм. Сродкамі А. выступаюць мова, калектыўныя традыцыі, абрады, звычаі, якія залежаць ад узроўню развіцця культуры. Значэнне А. ўзрастае ў сувязі з паскарэннем тэмпаў сацыяльных змен, якія закранаюць важныя бакі жыцця (міграцыя, узроставыя змены, развіццё прамысловасці, перамяшчэнне вялікіх мас сельскага насельніцтва ў горад, уздзеянне чалавека на агульнапланетарныя працэсы).

*А. І. Мікуліч, І. У. Чаквін.*

**АДВА́Л,** частка сахі, плуга, акучніка. Іншая назва — паліца. Гл. у арт. *Саха.*

**АДВЕ́ДКІ,** наведванне парадзіхі пасля родаў; традыцыйны звычай радзіннай абраднасці. Лакальныя назвы водведы, адведзіны, провідкі, наведы. У А. ішлі звычайна жанчыны (суседкі, сяброўкі, сваячкі парадзіхі) без запрашэння ўсе разам ці паасобку ў першыя 2—3 дні (на Палессі — у два тыдні і болей) пасля родаў, каб дапамагчы парадзісе і яе сям'і ў дамашніх клопатах. Паводле норм звычаёвага права, у А. нельга было ісці з пустымі рукамі, таму жанчыны неслі з сабою яешню, хлеб, кашу, сыр, мёд, масла, на Палессі — яшчэ боршч, аладкі, варэнікі, сырнікі, кампот з сушаных чарніц *(узвар).* Мужчынам і незамужнім дзяўчатам забаранялася хадзіць у А., забаронена было таксама цікавіцца здароўем нованароджанага. На Беларусі гэты звычай захаваўся да нашага часу, асабліва сярод сельскага насельніцтва, толькі з некаторымі зменамі: у А. разам з жанчынамі ходзяць мужчыны і незамужнія дзяўчаты, з сабой звычайна прыносяць падарункі дзіцяці і парадзісе, кветкі і інш.

*Т. І. Кухаронак.*

**АДВЕ́РНІЦКАЯ ГАВО́РКА,** адна з разнавіднасцей *умоўных моў.* Была пашырана на ўсёй усх.-слав. тэрыторыі. Ёю карысталіся прадстаўнікі розных сацыяльных груп: гандляры, рамеснікі, жабракі і інш. Мае даўнюю гісторыю. Галандскі падарожнік Ісаак Маса зазначаў, што чуў яе ад удзельнікаў сялянскага паўстання пад кіраўніцтвам І. І. Балотнікава (1606—07), сярод якіх быў і паўстанцкі атрад з Беларусі. Ад інш. умоўных моў адрознівалася выкарыстаннем выключна агульнаўжывальных слоў, семантыка якіх наўмысна зацямнялася рознымі маскіровачнымі элементамі, многія з якіх вядомы інш. умоўным мовам, напр., «ку-» («кувосень» — восень), «шу-», «шо-», «па-» («шусто» — мястэчка, «шоле» — поле, «пешалеко» — недалёка); «-имн-», «-омн-» («густимный» — густы, «хитромный» — хітры). Асабліва быў пашыраны словаўтваральны спосаб, калі агульнаўжывальнае слова члянілася на склады, да кожнага з якіх дадаваўся аднолькавы маскіровачны элемент, напр., «-фер-» («вафердафер» — вада). Часта склады слова мяняліся месцамі («лосома» — салома). Як больш простая па будове А. г. з цягам часу выцесніла некаторыя інш. ўмоўныя мовы (напр., *семежайскіх жабракоў мову*). Са зменай грамадскага ладу А. г. паступова знікла. *У. М. Свяжынскі.*

**АДЗЕ́ННЕ,** штучнае покрыва цела чалавека; неад'емная частка яго *матэрыяльнай культуры.* У шырокім сэнсе ўключае таксама *галаўныя ўборы, абутак* і інш. Яго агульны выгляд залежыць ад прыродна-кліматычных умоў, відаў і спосабу гасп. дзейнасці, узроўню развіцця вытворчых сіл, маё-



**Адзенне.** Невядомы мастак. Партрэт Януша Радзівіла. 1650-я.

масна-праваых адносін, этычных поглядаў і патрабаванняў, нацыянальных традыцый. У гісторыі грамадства А. выконвала і выконвае некалькі функцый (магічную, абрадавую, адрозненне паводле полу, узросту, сямейнага становішча, саслоўнай, этнічнай і рэлігійнай прыналежнасці, паводле роду заняткаў і службовага становішча), але найперш — утылітарную і эстэтычную. Задавальняючы практычныя патрэбы, яно адначасова нясе ў сабе мастацкі вобраз, таму выступае як від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і залежыць ад мастацкага стылю эпохі. Спецыфіка яго ў тым, што аб'ектам творчасці з'яўляецца сам чалавек. Утвараючы з ім зрокавае цэлае, А. патрабуе ўліку асаблівасцей фігуры, а таксама дэталей знешнасці (абрысы і адметнасці твару, колер валасоў, вачэй і інш.).

А. ўзнікла ў сярэднім старажытнакаменным веку і прайшло складаны шлях эвалюцыі. Як сацыяльная з'ява і як прадмет мастацтва яно ўвасабляла ўяўленні розных гіст. эпох аб ідэальным чалавеку, яго ўнутранай сутнасці і фізічным абліччы. Так, А. стараж. грэкаў з іх ідэалам доблеснага і прыгожага воіна-атлета толькі злёгку падкрэслівала гарманічнасць фігуры, не скажаючы яе; А. сярэднявечча згодна з хрысціянскімі догмамі пра грахоўнасць цела хавала яго пад цяжкімі бясформеннымі тканінамі; у эпоху Адраджэння, калі нормай прыгажосці стаў прызнавацца чалавек, А. стала больш зручным, як бы выражала гармонію ўнутранага і знеш-



Невядомы мастак. Партрэт Грызельды Сапегі. 1630-я г.

няга ў чалавеку; у перыяд Асветніцтва, калі эталонам прыгожага была прырода, а ўзорам для пераймання антычнасць, А. набыло натуральныя спакойныя формы. Спалучэнне ў адзіным мастацкім стылі кампанентаў А. і прадметаў, што яго дапаўняюць, стварае ансамбль, які называецца касцюмам. Паводле канструкцыі касцюмы ўсіх эпох падзяляюцца на 3 асноўныя тыпы: драпіраваны (складаецца з абгорнутага вакол цела кавалка тканіны, замацаванага непасрэдна на фігуры), накладны (надзяваецца праз галаву і як бы накладаецца на плечы), расхінны (мае спераду разрэз зверху данізу). Асноўны сродак вобразнага вырашэння ў А.— архітэктоніка. Кампазіцыйную выразнасць надаюць яму сіметрыя або асіметрыя, суладнасць або кантраст частак ансамбля, спосаб размяшчэння і вар'іраванне рытму малюнка або арнамен-

ту, іх насычанасць або разрэджанасць і інш. Мастацкімі сродкамі А. служаць таксама фактура і колер матэрыялу, аздоба (футра, стужкі, карункі, фурнітура — гузікі, спражкі, нашыўкі і аплікацыя, здымныя ўпрыгожанні). На своеасаблівасць вобразнага вырашэння ўплываюць і відазмяненні А. ў працэсе хады і руху чалавека.

А.— важная этнічная прыкмета народнасці і нацыі. Аднак у класавым грамадстве ў характары А. адбіліся маёмасная няроўнасць і прававая дыферэнцыяцыя. А. феадалаў, а пазней і буржуазіі падкрэслівала іх прывілеяванае становішча і высакамернасць. А. сялян, а пазней і рабочых уласціва арганічная сувязь з прыродным асяроддзем, зручнасць карыстання ў побыце і працы. Складваючыся на нац. глебе, А. кожнага народа засвойвае многія іншанацыянальныя рысы, набываючы характэрнасць і пераемнасць у пакаленнях. Але як вырабы з адносна няўстойлівых матэрыялаў прадметы А.



**Адзенне.** Невядомы мастак. Партрэт Лізаветы Соф'і Радзівіл. 1-я пал. 17 ст.

зберагаюцца значна горш, чым іншыя рэчы, а як асабістая прыналежнасць носьбіта звычайна не залічваюцца ў разрад мастацкіх. Таму А. мінулага цяжка паддаецца вывучэнню і крыніцамі яго з'яўляюцца звычайна тагачасныя замалёўкі і апісанні, выявы А. ў творах мастацтва.

Вытокі бел. А. ў культуры Кіеўскай Русі. Умераны кантынентальны клімат, працяглая зіма і негарачае лета вымагалі закрытага, цёплага А. Тканіны выраблялі з лёну (радзей пянькі) і воўны, упрыгожвалі набіўным узорам або ткалі з нітак розных колераў. Баярства шыла А. пераважна з прывазных тканін (парча, аксаміт, тафта, камка) розных адценняў чырвонага, блакітнага, зрэдку зялёнага колераў; аздобаю служылі вышыўкі шоўкам і жэмчугам. Амаль усе віды А. былі накладнымі, агульнае эстэтычнае патрабаванне — статычнасць і прастата сілуэта. Аснову мужчынскага гарнітура складалі *кашуля* з поясам і *нагавіцы*, жаночага — кашуля (даўжэйшая за мужчынскую) і паясное А. тыпу *панёвы*; верхняя вопратка — світа (зімой падшытая футрам). Мужчыны насілі шапкі з футра, сукна ці лямцу, дзяўчаты — вянец, замужнія жанчыны — чапец, а паверх — убрус. Абуваліся ў пасталы, поршні ці боты (жаночыя боты часта вышывалі). Гэтыя асаблівасці перайшлі ў спадчыну А. заходніх зямель стараж. Русі, дзе ў 14—16 ст. сфарміравалася





1 2 3 4

1. Селянін (канец 18 ст., паводле А. Рыгельмана). 2. Сялянка з Цэнтральнай Беларусі (пач. 19 ст., паводле К. Вайцiцкага). 3—4. Селянін з Палесся і жанчына з-пад Кобрына (1-я чвэрць 19 ст., паводле Ю. Крашэўскага).

бел. народнасць. У касцюме беларусаў адчуваецца ўплыў касцюма рускіх і украінцаў, а таксама літоўцаў, палякаў, іншых еўрапейскіх народаў. Існаванне яго ў тую пару супала з выпрацоўкай у Зах. Еўропе асноўных спосабаў і прыёмаў крою, удасканальваннем кравецкага рамяства, што прывяло да істотных змен у А. Кашуля ўскладнілася прынцыпамі крою, адкладным каўняром, світка — вытачкамі для стварэння аб'ёму, авальным падкроем проймы і акату рукавоў. Дэкор стаў больш разнастайным і вытанчаным, змясціліся яго акцэнты. А. магнатаў, шляхты і гарадской знаці развівалася ў рэчышчы зах.-еўрапейскай моды. Шылі яго з дарагіх тканін, аздаблялі залатой і сярэбранай вышыўкай, каштоўнымі камянямі. Важнымі часткамі мужчынскага гарнітура былі атласныя *жупан*, зверху *кунтуш*, падпяразаны доўгім поясам, воўчае (вільчура) і бабровае футра, жаночага — *ферэзія, чамара*, аблямаваныя карункамі або футрам собаля, куніцы, лісы, кабат з рукавамі. Спрашчэнне А. арыстакратаў пачалося з канца 18 ст. Народнае А. стваралася і бытавала ў асяроддзі працоўнага люду. Яно больш яскрава, чым А. іншых слаёў грамадства, выяўляла яго маральныя нормы і эстэтычныя густы. Народны касцюм уздзейнічаў на касцюм вышэйшых класаў і сам зазнаваў яго ўплыў, у ім найлепш захаваліся традыцыі нац. А. Бел. касцюм у 14—16 ст. узбагаціўся новымі відамі *(андарак, гарсэт)* і прынцыпамі афармлення (спосабы завязвання *наміткі*), больш наблізіўся да абрысаў фігуры. Ён меў характэрныя прыкметы касцюма эпохі Адраджэння, а з найбольш спецыфічных — тэндэнцыі да агульнай строгасці ансамбля, перавагі белага колеру ў паасобных вырабах, спалучэння белага з чырвоным у іх каларыстыцы, а таксама геаметрычных узораў у арнаментыцы, што было трывалай усх.-слав. традыцыяй. Бел. касцюм у гэты час набыў завершанасць, свой утылітарны і мастацкі вобраз. Яго развіццё ў 17 — сярэдзіне 19 ст. ішло не па шляху карэнных пераўтварэнняў, а па шляху тых ці іншых змен, звязаных з мадыфікацыяй асобных элементаў А., насычэннем колеравай гамы, пераасэнсаваннем арнаментальных матываў, замацаваннем рэгіянальных адметнасцей. У перыяд фарміравання бел. буржуазнай нацыі (на працягу 19 ст.) захоўвалася выразнае этнагр. аблічча бел. нар. А. Касцюм сялян той пары выступае як традыцыйны класічны ўзор бел. нар. мастацтва. Ён — вынік доўгіх і складаных гіст. працэсаў, скандэнсаваны вопыт многіх пакаленняў. Адна з яго самых адметных рыс — цесная ўзаемасувязь і танальная зладжанасць з іншымі праявамі творчай дзейнасці беларусаў,

з іх абрадамі і звычаямі (гл. *Абрадавы касцюм*). Даўнімі традыцыямі было вызначана, якое А. насіць у будні ці свята, надзяваць на вяселле ці на радзіны, падчас радасці ці жалобы. Напрыклад, у пост хадзілі ў пасцяным касцюме, у якім адсутнічаў чырвоны колер. У самае прыгожае адзенне ўбіраліся да працоўных урачыстасцей: выгану жывёлы «на юраўскую расу», на свята Першай баразны, Першага снапа на ніве або Першага пакосу на сенажаці. Дэкор касцюма бел. сялянства быў суладны з мелодыяй нар. песні, пластыкай нар. танца, строгай велічнасцю драўлянага дойлідства і драўлянай скульптуры. Ён натуральна ўпісваўся ў бел. краявід, гарманіраваў з інтэр'ерам сялянскай хаты, з яго самабытнай мэбляй, ручнікамі, абрусамі. Тканіны (палатняныя — зрэбныя і кужэльныя, суконныя і інш.) выраблялі ў хатніх умовах (на *кроснах*). Фарбавалі прыроднымі фарбавальнікамі (настоямі траў, кары і лісця дрэў, балотнай жалезнай рудой). На белае палатно натыканнем або вышыўкай наносілі чырвоны геаметрычны арнамент. У старажытнасці чырвоны колер





1. Рэпін. «Беларус». 1892. (злева)



1 2 3 4

Адзенне. К. Русецкі. «Жняя». 1845. К. Русецкі. «Жняя». 1845.

1—2. Селянін і сялянка (канец 18 — пач. 19 ст., паводле Норбліна). 3—4. Дзяўчына і жанчына з Піншчыны (канец 18 — пач. 19 ст., паводле Рабцэвіча).

сімвалізаваў жыццё, а ў ансамблі А. адыгрываў і важную кампазіцыйную ролю, яднаючы яго часткі ў мастацкае цэлае. Паліхромнасць была ўласціва суконным і паўсуконным тканінам паяснога А. і *поясу*, у якіх вышыўка амаль адсутнічае, а тканы ўзор вызначаецца сакавітасцю тонаў і смеласцю іх спалучэнняў — чырвоны, зялёны, сіні, белы. Удала выкарыстоўваліся ў аздобе натуральныя серабрыстыя тоны лёну і воўны. Бытаваў таксама спецыфічны промысел упрыгожання тканін — *набіванка*. З 2-й пал. 19 ст. са з'яўленнем анілінавых фарбавальнікаў і крамных нітак спектр колераў дапоўніўся аранжавым, фіялетавым, блакітным, малінавым, ярка-зялёным, аднак сфера іх выкарыстання была абмежаванай.

У традыцыйны комплекс мужчынскага А. ўваходзілі кашуля, нагавіцы, а таксама *камізэлька*. Кашулю насілі навыпуск, падпяразвалі поясам, каляшы абгортвалі анучамі і запраўлялі ў *лапці*, скураныя *пасталы*, боты, зімой — у *валёнкі*. Галаўнымі ўборамі былі саламяны капялюш *(брыль)* ці валеная *магерка*, зімой заечая ці аўчынная *аблавуха*. Закончанасць ансамблю надавала скураная сумачка, якую падвешвалі цераз левае плячо ці да пояса. Мужчынскі касцюм меў сціплае аздабленне, у ім пераважаў белы колер, а дэкор прыпадаў на каўнер, каўнерцы, пазуху і ніз кашулі і на разнаколерны пояс з кутасамі. Найважнейшага ўзлёту фантазіі і майстэрства бел. А. дасягнула ў жаночым касцюме, своеасаблівасць якога вызначае адметнасць нацыянальнага касцюма беларусаў увогуле. У жаночай кашулі залежна ад крою вылучаюць 3 умоўныя тыпы: з прамымі плечавымі ўстаўкамі; тунікападобная; з гесткай. Найбольшая ўвага звярталася на ўпрыгожанне рукавоў, што звязана з мастацкай тэктонікай і пластыкай касцюма, а таксама з верай у магічную сілу чырвонага рамбічнага арнаменту, які нібыта засцерагаў рукі ад злых духаў і надаваў ім моц у працы. Разнастайнае паяснoe А. жанчыны: многія віды спадніц (андарак, *саян*, палатнянік, летнік), а таксама панёвы, *фартухі*. Малюнак спадніцы і панёвы — клетка, падоўжныя або папярочныя палосы ў чырвоным, сіне-зялёным ці серабрыста-белым каларыце. Кампазіцыйна-арнаментальнае вырашэнне фартуха адпавядала кашулі і гарманіравала з ёю; апрача таго, ён упрыгожваўся карункамі і быў прыкметнай часткай касцюма. У жаночае, асабліва святочнае, убранне ўваходзіў і гарсэт у выглядзе безрукаўкі, якая шчыльна аблягала стан і рабіла фігуру зграбнай. Шылі яго звычайна з крамных тканін (аксаміт, парча, шоўк) чорнага, блакітнага, малінавага колераў, аздаблялі вышыўкай, аплікацыяй, нашыўкамі тасёмак, стужак, гузікаў. Касцюм мог дапаўняцца разнаколерным (найчасцей чырвона-зялёна-белым) поясам з кутасамі ці махрамі. Галаўныя ўборы строга залежалі ад узросту і сямейнага становішча жанчыны. У дзяўчат гэта былі перавязкі накшталт вузкіх ручнікоў *(скіндачка, шлячок)*, *вянкі*. Замужняй кабеце не дазвалялася паказвацца на людзях з непакрытай галавой, таму жаночыя галаўныя ўборы паводле будовы больш складаныя і разнастайныя. Яны падзяляюцца на ручніковыя (намітка, сярпанка, *хустка*), рагацістыя

*(галовачка)*, каптуровыя *(каптур, чапец, падвічка)*. Самы пашыраны і адмысловы — намітка. Яна мноствам спосабаў павівалася вакол галавы на спец. каркасе, канцы яе прыгожа драпіраваліся на спіне, а постаць жанчыны ўспрымалася вельмі статнай і велічнай. Будзённым абуткам жанчыны былі лапці, святочным — пасталы і чорныя хромавыя чаравікі. Верхняя мужчынская і жаночая вопратка мала адрознівалася паміж сабой. Яе шылі з валенага нефарбаванага сукна (світа, *сярмяга, латушка, бурка, бурнос*), аўчыны (*кажух*, кажушок — белыя нядубленыя, пазней чырвона-вохрыстыя дубленыя, *казачына*). Насілі таксама *бравэрку, кафтан, кабат*. Дэкаратыўнасцю вылзяляліся святочныя світы і кажушкі, якія па-майстэрску кроілі (з бакавымі клінамі — «з вусам»), упрыгожвалі шнурком, аплікацыяй, вышыўкай. Касцюм беларусаў канца 19 — пач. 20 ст., яго формы не былі аднароднымі. Расслаенне сялянства на заможных і беднату, рост таварна-грашовых адносін, масавае адыходніцтва, пранікненне ў вёску прамысловых вырабаў размывалі «жанравыя» межы традыцыйнага нар. касцюма. Моцны ўплыў гарадскога касцюма з яго тэндэнцыяй да спрашчэння і універсалізацыі форм, шырокае выкарыстанне крамных раскручаных ткапін і фарбавальнікаў з тэндэнцыяй да паліхромнасці падводзілі нар. А. да карэнных змен. Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачаўся якасна новы этап развіцця нар. А. беларусаў. Многія віды і састаўныя часткі А. выйшлі з ужытку, а тыя, што асталіся, і тыя, што ўзніклі, сталі больш зручнымі і дасканалымі. Побач з ільнянымі і шарсцянымі даматканкамі пашырыліся фабрычныя баваўняныя, шаўковыя і інш. тканіны. З'явіліся невядомыя раней матэрыялы і спосабы аздаблення. І мужчынскі, і жаночы касцюм сталі больш багатымі, разнастайнымі, сугучнымі свайму часу. У 1920—30-я г. сферу бытавання павалічылі шматколерныя, сакавітай расфарбоўкі кашулі, фартухі, хусткі. Каларыт А. стаў больш стракатым, спалучэнне колераў — больш смелым. Замест чыстых і глыбокіх тонаў пачалі ўжываць пераходныя. Трацілася семантыка традыцыйнага геаметрычнага арнаменту, часцей сустракаўся раслінны ўзор. У строгую геаметрыю ўзорыстых тканін і вышывак уводзяцца новыя матывы («ружы», «валошкі», «незабудкі», «званочкі», на Палессі і Случчыне — стылізаваныя выявы галубкоў, пеўнікаў і інш. заморфныя матывы). Выкарыстоўваючы каляровыя нюансы, майстрыхі дасягаюць святлоценявога эфекту, і к сярэдзіне 20 ст. акрэсліваецца новая ступень у развіцці мастацкіх сродкаў бел. нар. А.— плоскасны малюнак атрымлівае ілюзію аб'ёму. Бел. нар. А. аднатыпнае на ўсёй тэр. Беларусі, але і ў ім вылучаюць 4 асноўныя комплексы (залежна ад таго, з чым насілі кашулю ў жаночым касцюме): са спадніцай і фартухом; са спадніцай, фартухом і гарсэтам; са спадніцай, да якой прышыты ліф-гарсэт, і фартухом; з панёвай, фартухом, гарсэтам. Першыя 2 вядомы ўсюды, 2 другія — ва ўсх. і пaўд.-ўсх. раёнах. Кожны з іх пасвайму адлюстроўвае эвалюцыю касцюма ад старажытных, пазбаўленых крою адзежын з прамавугольных кавалкаў тканіны да вытанчаных форм з багатым аздабленнем фальбонамі, складкамі, вытачкамі, швамі. У кожным адбіліся і асаблівасці такіх гісторыка-этнагр. рэгіёнаў, як Зах. і Усх. Палессе, Падняпроўе, Цэнтр. Беларусь, Панямонне, Паазер'е. Комплексы маюць шэраг разнавіднасцей, якія ўвасабляюць стылявыя прынцыпы нар. творчасці ў пэўных кутках бел. краю. Гэтыя лакальныя разнавіднасці вылучаюцца як нар. строі. Яны адрозніваюцца асобнымі элементамі касцюма, тэхнікай выканання і характарам арнаменту, яго сюжэтамі, каларытам, а таксама спосабамі нашэння частак касцюма. Геагр. межы нар. строяў выражаны нярэзка. У розныя часы яны мяняліся і залежалі ў мінулым ад сацыяльна-эканам. развіцця мясцовасці, прыродна-кліматычных умоў, якія ўплывалі на дыферэнцыяцыю гаспадаркі, адміністрацыйных, царкоўных і прыватнаўласніцкіх падзелаў тэрыторыі, кантактаў з іншанацыянальным насельніцтвам. Найбольш вывучаныя строі: дамачаўскі, кобрынскі, маларыцкі, мотальскі, пінска-івацэвіцкі (Зах. Палессе), брагінскі, давыд-гарадоцка-тураўскі, калінкавіцкі, турава-мазырскі (Усх. Палессе), буда-кашалёўскі, краснапольскі, магілёўскі, неглюбскі (Падняпроўе), вілейскі, капыльска-клецкі, ляхавіцкі, пухавіцкі, слуцкі (Цэнтр. Беларусь), ваўкавыска-камянецкі, мастоўскі, навагрудскі (Панямонне), дубровенскі, лепельскі (Паазер'е); пра кожны строй глядзі адпаведны артыкул). Матэрыяльна-тэхнічная база сацыялізму, няўхільны рост дабрабыту працоўных, павелічэнне вытворчасці тавараў нар. спажывання абумовілі затуханне традыцый нар. касцюма. Але ён астаецца крыніцай натхнення, матываў і вобразаў для прафесійных творцаў, прадаўжае жыццё на харэаграфічнай і тэатральнай сцэнах, у мастацкай самадзейнасці, выступае аб'ектам адлюстравання ў творах літаратуры і мастацтва. Адрозненні ў А. рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі нівеліруюцца, яно развіваецца як агульнаеўрапейскі касцюм, якому ўласцівы зручнасць у руху, лёгкасць і мяккасць у формах, рацыянальнасць і мэтазгоднасць крою, натуральнасць і элегантнасць агульнага выгляду.

*В. С. Вайткевіч, М. Ф. Раманюк.*

**АДЛЕ́ЎНІК,** гліняны гаршчок невялікага аб'ёму. Звычайна ў яго адлівалі ежу, што бралі з сабой у час сенакосу ці жніва. Для зручнасці два А., пастаўленыя адзін на другі, абвязвалі ручнікам (трапкачом). Былі вядомы на ПнУ Беларусі да 1930-х г.

**АДЛІ́Ў,** казырок, вузкі на ўсю шырыню хаты *застрэшак*, які навісае над тарцовай сцяной, засцерагаючы яе ад атмасферных ападкаў.

**АДНАДВО́РЦЫ,** падатковая катэгорыя насельніцтва на Беларусі ў 19 ст.; этнасацыяльная група. Утвораны паводле ўказа Сената ад 31.10.1831 з часткі беднейшай шляхты, пераведзенай у А. па паліт. матывах (за ўдзел у паўстанні ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве 1830—31). На Пн Беларусі, у Пасожжы, Ашмянскім і Лідскім пав. утваралі значныя кампактныя масівы рассялення. Пражывалі ў засценках, слабодах, фальварках. Лічыліся асабіста вольнымі, пры дакументальным доказе свайго шляхецкага паходжання маглі быць вернуты ў дваранскае саслоўе. Займалі прамежкавае становішча паміж дробнай шляхтай і заможным сялянствам. Большасць А. былі каталіцкай веры. Падзяляліся на аселых (мелі сваю зямлю ці былі арандатарамі) і неаселых (не мелі сродкаў вытворчасці, працавалі па найму ці на адміністрацыйных пасадах у панскіх маёнтках). Аселыя плацілі штогод падаткаў 3 руб. з *дыму*, беззямельныя А.— арандатары — 2 руб., неаселыя — 1 руб. з мужчынскай душы. А. выконвалі рэкрутчыну з 15-гадовым тэрмінам службы. Асноўны занятак — земляробства, значнае месца займалі жывёлагадоўля, агародніцтва і садаводства. З пабочных промыслаў былі развіты пчалярства, рыбалоўства, паляванне, рамізніцтва. Жылыя і гаспадарчыя памяшканні будавалі ў глыбіні двара і аддзялялі ад вуліцы палісаднікам. Яны ўтваралі замкнёную (вяночную) ці П-падобную сістэму забудовы з шырокімі брамамі. У двары нярэдка стаяў *лямус*. Найбольш тыповая планіроўка жылля трохкамерная — хата + сенцы + хата. У адным жылым памяшканні пражывала сям'я, другое — святліца — служыла гасцінай. Паўсядзён-



**Адонак** для сена. Вёска Воса Кобрынскага раёна.

нае адзенне мала адрознівалася ад сялянскага. У мужчын — даматканая кашуля, што запраўлялася ў свабоднага пакрою штаны, прыталены капот і даўгаполы жупан (чорнага ці шэрага колеру); у жанчын — кофты, аднатонныя і каляровыя спадніцы, нярадка з узорнай набойкай. Зімою насілі кажухі, пакрытыя шэрым і чорным даматканым сукном. Некаторыя асаблівасці захоўваліся ў сацыяльнай псіхалогіі, этычных нормах, звычаях і абрадах. Паводле ўказа Сената ад 13.8.1857 значная частка А. зліта з дзярж. сялянамі, А., якія жылі на памешчыцкіх землях,— з «вольнымі» людзьмі.
*В. С. Цітоў.*

**АДНАДРЭ́ЎКА,** лодка, выдзеўбаная са ствала дрэва; самы старажытны тып лодкі, які бытаваў на Беларусі да з'яўлення дашчаных лодак. Сустракаецца і ў наш час (гл. *Човен*).

**АДО́НАК,** 1) памост для складвання неабмалочаных снапоў. Уяўляе сабой збудаванне з 4 слупоў (ступіц) вышынёю ад 0,4 да 0,9 м, а ў балоцістых мясцінах да 1,5 м; на слупах мацавалі перакладзіны (аподні), на якія насцілалі дошкі (лубцы). Зверху А. пакрывалі саломай. Снапы складвалі на памост па кругу каласамі на сярэдзіну.



Тэхніка выканання ажурнага ткацтва.

і рэвалюцыянізацыі вёскі. Адыходныя сяляне з'яўляліся адной з крыніц фарміравання прамысловага і с.-г. пралетарыяту Расіі. А. ў Расію, на Украіну, у Прыбалтыку ўзаемна ўзбагачала матэрыяльную і духоўную культуру суседніх народаў.

На Беларусі існавалі 2 формы А.: неземляробчае (лесанарыхтоўка, *сплаўны промысел, бурлацтва,* будаўніцтва крэпасцей, каналаў, шашэйных і чыгуначных дарог, *возніцтва,* адыход на шахты Данбаса, цукровыя заводы Украіны, на прадпрыемствы Масквы, Пецярбурга і інш. гарадоў) і земляробчае (на сезонныя работы да памешчыкаў за межы свайго павета, губерні і краю). З Магілёўшчыны і Міншчыны сяляне часцей ішлі на Украіну і ў Расію, з Віцебшчыны і Гродзеншчыны — у Прыбалтыку і Польшчу. У 1880-я г. земляробчае А. склала каля палавіны агульнай колькасці сялян-адыходнікаў. З Беларусі ў 1890-я г. штогод адыходзіла на заработкі каля 300 тыс. чалавек.

З цягам часу асобныя віды адыход-



Ажурнае ткацтва.



Ажурнае ткацтва.



Ажурнае ткацтва.

А. надзейна зберагаў збажыну ад вільгаці. 2) Памост з сушняку, жэрдак, на які кладуць стог сена ці скірду збожжа.
*У. С. Гуркоў.*

**АДРЫ́НА,** п у н я, 1) гаспадарчая пабудова для захоўвання сена, саломы, а таксама сельскагаспадарчага інвентару. Лакальная назва пуня. У некаторых фальварках у А. малацілі збожжа. Паводле функцыянальнага прызначэння займала сярэдніе месца паміж *гумном* і *хлявом.* Памерамі, знешнімі формамі і канструкцыйнымі асаблівасцямі не адрознівалася ад хлявоў. Ставілі А. на прыгуменні або непасрэдна ў агульным комплексе гаспадарчых пабудоў. Часам мела падлогу з плашчакоў. Назва «А». зафіксавалася на Гродзеншчыне, Гомельшчыне і ў цэнтр. частцы Беларусі. На Магілёўшчыне А. называлі сяннiцай, у некаторых р-нах Брэстчыны — сельніцай. 2) Да 17 ст. спальня ў жылым памяшканні або халодны будынак, дзе жылі летам.
*У. С. Гуркоў.*

**АДЫХО́ДНІЦТВА,** часовы адыход сялян з месц пастаяннага жыхарства на заработкі ў раёны развітой прамысловасці і сельскай гаспадаркі ўнутры краіны, а таксама за мяжу. Пачалося ў перыяд позняга феадалізму (прыкладна з 17 ст.), выклікана ўзмацненнем феадальнай эксплуатацыі і развіццём таварна-грашовых адносін. Пашырылася пры капіталізме як вынік абеззямелення і дыферэнцыяцыі сялянства, збяднення дробных гаспадарак, росту рыначных адносін і грамадскага падзелу працы. Садзейнічала павышэнню класавай самасвядомасці сялянства

ных промыслаў развіваліся, другія скарачаліся ці зніклі. У сувязі з пабудовай чыгунак страціла значэнне возніцтва, буксірнае параходства выцiснула бурлацтва. Маштабы работ на лесанарыхтоўках і лесасплаве паступова павялічваліся, ўзрастала А. на прамысловыя прадпрыемствы.
*Н. І. Буракоўская.*

**АЖУ́РНАЕ ТКА́ЦТВА,** від народнага ткацтва. Найбольшае распаўсюджанне мела ў канцы 19 — пач. 20 ст. на Віцебшчыне, сустракалася на Палессі і Падняпроўі. Ажурныя тканіны (радчыкі) для фіранак, полагаў, ручнікоў, абрусаў, посцілак выраблялі з ільну рознымі спосабамі: разрэджанай пераборкай у бёрда і парнай перавіўкай ніцей асновы ў працэсе ткання; пропускам незатканых падоўжаных і папярочных палосак з далейшай пера-



Акарына.

асноўныя этапы, кірункі і тэндэнцыі развіцця рускай фалькларыстыкі дарэвалюцыйнага часу, пра дзейнасць асобных вучоных, змяшчае факты з гісторыі збірання і вывучэння бел. нар. творчасці. Бел. фальклорны матэрыял выкарыстаў у каментарыях да складзенага ім зборніка «Народныя казкі пра бога, святых і папоў: Рускія, беларускія і ўкраінскія» (1963). *А. С. Фядосік.*

**АЗЯРО́Д,** збудаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання на сонцы і ветры збажыны, сена, бульбоўніку і інш. Лакальныя назвы пераплот, астраўкі. Найбольш пашыраны ў цэнтр. р-нах Беларусі, значна радзей сустракаўся ў Гродзенскай і Брэсцкай абл., дзе збажыну сушылі на полі, а таксама на Магілёўшчыне і Пн Гомельскай вобл., дзе збажыну сушылі ў *асецях* і *ёўнях.* У фальварках А. размяшчаліся непасрэдна каля гумнаў, стадол, такоў.



Азярод на сялянскай сядзібе. Пач. 20 ст.

Цяпер у меншай ступені бытуе паўсюдна.

**АЙЧЫ́М,** муж маці ў адносінах да яе дзяцей ад папярэдняга шлюбу; няродны бацька.

**АКАНІ́ЦЫ,** створкі для засцярогі акон знадворку. Прататыпам А. былі засаўкі, якімі закрывалі незашклёныя валакавыя вокны курных хат; з пашырэннем зашклёных акон заменены створкамі (спачатку адной, затым па дзве) на завесах. Разам з *ліштвамі* складаюць дэкаратыўнае абрамленне акна і адначасова аздабляюцца. Найбольш пашыраны спосаб дэкарыравання — прафіляваная апрацоўка дошак і брускоў (на Паазер'і — дыяганальнае шаляванне), расфарбоўка, зрэдку — трохгранна-выемчатая разьба ці прапілоўка. У мураваным гаспадарчым дойлідстве (крамы, свірны) бытавалі і металічныя А., часам дэкарыраваныя па-мастацку апрацаванымі жалезнымі стужкамі. У сучаснай нар. архітэктуры А. бытуюць пераважна на У Беларусі: выконваюць гал. чынам дэкаратыўную ролю. *У. С. Гуркоў, Я. М. Сахута.*

**АКАРЫ́НА,** к а р ы н а (італ. ocarina літаральна гусяня), духавы музычны інструмент тыпу флейтавых. Створана ў Італіі Дж. Данаці, хутка пашырылася ў многіх краінах. На Беларусі пашырана ў пач. 20 ст. пераважна ў зах. р-нах. Бел. А. маюць гліняны корпус авальнай формы, свістковае прыстасаванне («свісток»); 8—10 ігравых адтулін («галасоў»). Гукарад у дыяпазоне ноны — ундэцымы спалучае элементы дыятонікі і храматыкі. Гучанне мяккае, пяшчотнае, даволі ціхае. Выкарыстоўваецца пераважна нар. музыкантамі-аматарамі для ігры сольнай (выкананне лірычных песень, рамансаў, некаторых танцаў) і ансамблевай (разам са спевакамі). Паводле Г. І. Цітовіча, у пач. 20 ст. А. была вядома ў Міёрскім і Шаркоўшчынскім р-нах Віцебскай вобл. і Столінскім р-не Брэсцкай вобл. У наш час сустракаецца ў некаторых р-нах Цэнтр. і Зах. Беларусі. Да акарынападобных адносіцца *свісцёлка.* *І. Дз. Назіна.*



Акно. Горад Гомель.

віўкай у іх свабодных ніцей асновы і ўтку. А. т. вызначаецца шэра-белым серабрыстым каларытам, дакладнасцю ажурнага арнаменту. *М. М. Віннікава.*

**АЗАДО́ЎСКІ** Марк Канстанцінавіч [6(18).12.1888, Іркуцк — 24.11.1954], рускі савецкі фалькларыст, этнограф, літаратуразнавец. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1913). Выкладаў у Томскім, Іркуцкім і Ленінградскім ун-тах. Даследаваў актуальныя праблемы казказнаўства (больш за 300 прац), ідэйна-мастацкі змест асобных жанраў вуснай нар. творчасці, сувязі фальклору і літаратуры («Руская казка», т. 1—2, 1932; «Артыкулы па літаратуры і фальклору», 1960 і інш.). Найбольш каштоўная праца — «Гісторыя рускай фалькларыстыкі» (т. 1—2, 1958—63; т. 3 незакончаны і неапублікаваны) пра

**АКНО́,** канструкцыйна-мастацкі элемент будынка, што служыць для асвятлення, інсаляцыі і натуральнай вентыляцыі памяшканняў. Першапачаткова функцыі А. выконвалі невялікія адтуліны, зробленыя ў двух сумежных вянках сцяны, якія закрывалі засаўкай (валакавое А.), пазней — шклом. У наш час такога тыпу вокны захаваліся ў клецях, хлявах, сенцах. Больш дасканалыя вокны маюць 2 канструкцыйныя вырашэнні: раму навеш-

ваюць на вушакі або на каробку (дылю), што ўстаўляецца ў аконны праём. У канструкцыю А. ўваходзяць рамы, падаконнік, *ліштвы* і *аканіцы*. Рама звычайна мае 3—4—6 шыб (у 16—17 ст. у сядзібах — да 30 і болей). Да 19 ст. замест шкла часта выкарыстоўвалі спецыяльна вырабленыя скуры, паперу, пухіры жывёл, палатно; зімою вокны прыкрывалі знадворку саламянымі матамі, каб лепш захоўваць цяпло ў хаце. Колькасць А. залежала ад планіроўкі хаты. Звычайна рабілі 2 А. ў паўднёвай сцяне, што выходзіла на двор, і адно — у тарцовай — на гал. фасадзе. Такое размяшчэнне А. спрыяла стварэнню ў хаце «краснага кута». Чацвёртае А. (у глухой сцяне паміж печчу і гал. фасадам) рабілі толькі ў асобных мясцовасцях (Драгічынскі, Іванаўскі, Асіповіцкі і інш. раёны). У 2-й пал. 19 ст., калі пачала мяняцца планіроўка жылля (падзел хаты на залу і спальню), у тарцовай сцяне, што выходзіла на вуліцу, рабілі па 2 А. Месца А. на фасадах, іх форма адыгрываюць вялікую ролю ў стварэнні мастацкага аблічча будынка. Аканіцы, падаконныя і падаконныя ліштвы — традыцыйныя элементы аздобы хаты. Сучасныя вокны маюць шыбы значных памераў, робяцца з падвойнымі рамамі, з форткамі; рамы не прыбіваюць да каробкі, а падвешваюць на металічных завесах, такое А. адчыняецца. У вясковых хатах на зіму ўстаўляюць дубальты.

*С. А. Сергачоў.*

**АКО́ЛІЦА**, 1) саслоўна-класавы тып пасялення, заселенага дробнай шляхтай. Размяшчаліся непадалёку ад вёсак і былі агароджаны плотам. Характэрная асаблівасць А.— бессістэмная забудова. Найб. пашырэнне на Беларусі А. мелі ў 17 — 1-й чвэрці 20 ст. У 1923 на Беларусі існавала 83 А. У 1938 яны аднесены да разраду *вёсак*, ад якіх, па сутнасці, мала чым адрозніваліся. 2) Наваколле, акруга або агароджа вакол вёскі (паходзіць ад усх.-слав. дзеяслова «околоти» — абкружаць, агароджваць, абнасіць каламі).

*У. С. Гуркоў.*









**Аканіцы.** Вёска Моцеўкі Міёрскага раёна.

**Акно** хаты. Вёска Шылавічы Чачэрскага раёна.



**Аканіцы.** Вёска Старое Сяло Веткаўскага раёна.

Акенцы ў клецях і сенцах.

**«АКО́ЛУШКА»**, традыцыйны танец. Мае некалькі варыянтаў. У адным трое ўдзельнікаў становяцца тварам у круг, кладуць рукі на плечы ці талію адзін аднаму і кружацца (адначасова робяць крокі з падскокам); у другім — некалькі танцораў становяцца ў круг, бяруцца накрыж рукамі і хутка кружацца то ў адзін, то ў другі бок. Танец суправаджаецца прыпеўкамі. М. Федароўскі адзначаў, што «А». ў Ваўкавыскім пав. мае такую ж папулярнасць, як кракавяк у палякаў. Зафіксаваны ў паўд.-зах. р-нах Беларусі.

*Ю. М. Чурко.*

**А́КТЫ ВІЛЕНСКАЙ АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ,** «Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов» (АВАК), серыя публікацый дакументаў па сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі Беларусі і Літвы 14—19 ст. (т. 1—39. Вільня, 1865—1915). Дакументы класіфікаваны пераважна па фармальна-тэматычных прыкметах, змяшчаюць шмат звестак па этнаграфіі Беларусі. Сярод іх матэрыялы копных і земскіх судоў, дзе ёсць звесткі пра прамысловасць, земляробства, жывёлагадоўлю, павіннасці, катэгорыі насельніцтва і яго сацыяльнае расслаенне, звычаёвае права, абрады, звычаі, сямейны і грамадскі побыт (т. 1, 2, 9, 17, 18, 21, 22, 24, 28, 29, 31), дакументы гродскіх судоў і магістратаў, матэрыялы пра эканам. і гандлёвыя сувязі, гарадское самакіраванне, гаспадарча-вытворчую дзейнасць, матэрыяльную культуру, горадабудаўніцтва і інш. (т. 3—8, 23, 26, 27, 30, 32, 36), інвентары старостваў, маёнткаў, фальваркаў і вёсак за 18 ст. (т. 35, 38), дакументы пра рускіх, татараў, яўрэяў, палякаў, латышоў і інш. (т. 17, 28, 31), царкоўную унію (т. 16), руска-польскую вайну 1654—67 (т. 34), Айч. вайну 1812 (т. 37). Надрукаваныя ў АВАК дакументы зберагаюцца ў Цэнтр. дзярж. архіве Літ. ССР і ў Цэнтр. дзярж. гіст. архіве ў Гродне.



Акучнік (сошка). Вёска Капланцы Ігуменскага павета. 1904.



Акучнік з жалезнымі крыламі (для рэгулявання шырыні баразён). Вёска Гвоздавічы Пастаўскага раёна.



Акучнік з жалезнымі крыламі (для рэгулявання шырыні баразён) і колавай прыстаўкай. Вёска Мазуры Ельскага раёна.



Акучнік двухрогі з цурбаном. Вёска Белабярэжская Рудня Нараўлянскага раёна.

**А́КТЫ ЗАХО́ДНЯЙ РАСІІ,** «Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею» (АЗР), зборнік дакументаў па гісторыі Беларусі, Украіны і Літвы за 14—17 ст. (т. 1—5. Спб., 1846—53). Складзены, апрацаваны і выдадзены І. І. Грыгаровічам. Уключае каля 2 тыс. дакументаў, сабраных у бібліятэках, архівах і ўстановах зах. губерняў Расіі, Пецярбурга і Масквы; размешчаны ў храналагічным парадку (т. 1, 1340—1506; т. 2. 1506—44; т. 3, 1544—87; т. 4, 1588—1632; т. 5, 1633—99). Кожны том мае археаграфічныя заўвагі, ёсць генеалагічныя табліцы, радаслоўныя ўдзельных князёў і інш. звесткі. Сярод матэрыялаў дакументы пра дыпламатычныя адносіны Вял. кн. Літоўскага і Польшчы з Расіяй, Малдавіяй, Лівоніяй, Крымскім ханствам; пра Лівонскую вайну 1558—83 (т. 3), вызваленчую вайну укр. і бел. народаў 1648—54 за ўз'яднанне з Расіяй (т. 5), праваслаўную царкву і яе супрацоўленне Брэсцкай уніі 1596 (т. 4). У зборніку апублікаваны найважнейшыя зборы законаў феадальнага права Вял. кн. Літоўскага, у т. л. дарчыя граматы феадалам, духавенству, гарадам — Брэсту, Полацку, Мінску, Ваўкавыску, Навагрудку, Магілёву на магдэбургскае права (т. 1), прывілеі і ўстаўныя граматы Полацкай і Віцебскай землям (т. 1, 2, 4). У дакументах пра развіццё сельскай гаспадаркі («Устава на валокі» 1557, т. 3, інвентар Гомельскай вол. за 1640, т. 5, і інш.) ёсць звесткі пра гаспадарча-вытворчую дзейнасць і матэрыяльную культуру беларусаў. Многія дакументы надрукаваны на стараж. бел. і укр. мовах.

**А́КТЫ ЛІТО́ЎСКА-РУ́СКАЙ ДЗЯРЖАВЫ,** «Акты Литовско-Русского государства», зборнік дакументаў па сацыяльна-эканамічнай гісторыі Вял. кн. Літоўскага 14—16 ст. Выдадзены М. В. *Доўнар-Запольскім* (вып. 1—2. М., 1897—99). Уключае афіцыйныя акты — Метрыкі Вял. кн. Літоўскага пра гандаль, рамяство, таможныя і карчомныя зборы; дарчыя

граматы на зямлю, гарадам на магдэбургскае права, дакументы пра павіннасці сялян, кнігі запісу даходаў і расходаў вялікага князя і інш.

**АКТЫ ПАЎДНЁВАЙ І ЗАХОДНЯЙ РАСІІ**, «Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею» (АПЗР), зборнік дакументаў па гісторыі Украіны, Беларусі, Расіі і Літвы за 1361—1678 (т. 1—15. Спб., 1861—92). Пераважаюць дакументы пра нацыянальна-вызваленчую барацьбу бел. і ўкр. народаў за ўз'яднанне з Расіяй, вайну з Турцыяй, Крымскім ханствам, Швецыяй. Сярод дакументаў дарчыя граматы вялікага літоўскага і ўдзельных князёў свецкім і духоўным феадалам, граматы, наказы, акты на продаж, абмен і заклад зямель і інш.

Па гісторыі Беларусі найбольш дакументаў у 1, 2 і 14-м тамах: граматы пра наданне розных прывілеяў Дзісне, Мінску, Оршы, Віцебску, Магілёву і інш. гарадам і мястэчкам, «Устава аб спагнанні мыт» за 1557, дазволы на стварэнне брацтваў у Магілёве і Вільні, трактаты супраць Брэсцкай уніі 1596 і інш. У зборніку найбольшая ўвага ўдзяляецца дзейнасці бел. і ўкр. шляхты, казацкай старшыны. Жыццё сялянства і гарадской беднаты недастаткова адлюстравана, мала паказаны феадальны прыгнёт і класавая барацьба. Матэрыялы сістэматызаваны. 6—15-ы т. маюць імянны і геагр. паказальнікі.

**«АКУЛІНА»**, гарадскі бытавы танец. Музычны памер 2/4. Тэмп хуткі. Выконваецца пад прыпеўкі, ад першых слоў якіх паходзіць назва танца. Малюнак «А.» — пераходы па кругу, «ручаёк», змена партнёраў; мае сходныя рысы з *кадрыляй*. Выконваецца простым крокам з рознымі прытупамі або полькай у пары з адначасовым прытупам і воплескам у далоні. Вядомы варыянты «А.», у якіх крок полькі спалучаецца з дробным крокам і прытупам. Цікавая пастава рук выканаўцаў (пры якой выконваюцца разнастайныя кручэнні): стаўшы тварам адзін да аднаго, яны злучаюць процілеглыя рукі, сагнутыя на ўзроўні грудзей, «кісць у кісць». Свабодныя рукі адводзяць у бакі і не злучаюць іх. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДІ бел. танцавальнай творчасці МІК у Смаргонскім, Ашмянскім і Берастаўіцкім р-нах Гродзенскай вобл. *А. Л. Варламаў.*

**АКУЛЬТУРАЦЫЯ** ў этнаграфіі, адна са стадый аб'яднальных *этнічных працэсаў*, якая характарызуецца ўспрыняццем групай асоб, пэўным саслоўем ці класам асноўных рыс культуры суседняга (звычайна дэмаграфічна дамініруючага ці больш развітага) этнасу пры значным ці частковым захаванні асноўных рыс сваёй роднай культуры. Напрыклад, працэс А. стаў вызначальным у *інтэграцыі* феадальных вярхоў Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы ў т. зв. шляхецкае саслоўе Рэчы Паспалітай. *І. У. Чаквін.*

**АКУЧНІК**, сошка, абганялка, баразняк, землярobчая прылада для пракладкі міжрадковых разор і акучвання бульбы. Лакальная назва распашнік, ральнік. Больш архаічная форма А.— сошка з жалезным нарогам і сіметрычнымі крыламі-«палічкамі». На ПнУ Беларусі бульбу акучвалі звычайна двурогай *сахой*, з якой здымалі паліцу. Часам паліцу або драўляны цурбан трохвугольнай формы замацоўвалі паміж сашнікоў. Сучасны А.— жалезны, яго рабочая частка складаецца з сіметрычнага лемяша і авальных крылаў, што расхінаюцца па шырыні разоры; глыбіня разор рэгулюецца рычажным элементам на канцы градзіля (дышла) і даўжынёй пастронкаў. У А. звычайна запрагаюць каня. *В. С. Ціто*ў.

**АКЦЯБРЫНЫ**, савецкі абрад урачыстай рэгістрацыі нованароджаных і сямейная ўрачыстасць з нагоды нараджэння дзіцяці. Узніклі ў 1920-я г. ў процівагу рэлігійнаму хрышчэнню. Актыўны ўдзел у правядзенні А. прымалі камсамольцы. Тэрмін паходзіць ад рускай назвы Кастрычніцкай (Октябрьской) рэвалюцыі. У пасляваенны перыяд тэрмін «А.» пачаў знікаць і цяпер у рэспубліцы амаль не сустракаецца.

**АЛАДКІ**, традыцыйны мучны выраб. Муку замешваюць на заквасцы, разведзенай малаком, сыракваўшай, сыроваткай. Пякуць на папярэдне змазанай тлушчам патэльні ў гарачым духу печы. Раней у святочныя і абрадавыя дні А. пяклі з пшанічнай мукі вышэйшых гатункаў, у цеста дабаўлялі яйкі, масла, соду або дрожджы; гатовыя А. палівалі цёртым макам (часцей за ўсё на калядны), змазвалі маслам, мачалі ў растопленае сала (тук), смятану ці варэнне. А. былі пашыраны ў паўд.-ўсх., цэнтр. і зах. частцы Беларусі. Цяпер шырока распаўсюджаны па ўсёй тэр. рэспублікі. На Палессі А. называюць бліны з таркаванай бульбы: вялікія — на ўсю патэльню і маленькія — «па ложцы». *І. П. Корзун.*

**АЛЬКЕЖ** (польск. alkierz), памяшканне ў дамах шляхты і магнатаў Беларусі 16 — пач. 20 ст., якое выкарыстоўвалася як камора, кабінет або летняя спальня. Зрэдку абаграваўся грубкай або камінам. Спачатку А. не вылучаліся з агульнага аб'ёму будынка (в. Дзераўная Стаўбцоўскага, в. Лахва Лунінецкага р-наў, г. п. Іўе). З 17 ст. пад уплывам стылю барока А. некаторых дамоў рабілі ў выглядзе невялікіх прыбудоў у сядзібных дамах (г. п. Поразава Свіслацкага, г. п. Копысь Аршанскага, в. Заполле Пінскага, в. Краснае Маладзечанскага р-наў і інш.). А. былі пераважна ў драўляных дамах і палацах. *Ю. А. Якімовіч.*

**АЛЬКОЎ**, алькова (франц. alcôve ад араб.), памяшканне або частка яго (звычайна ў выглядзе прамавугольнай ці паўкруглай нішы) у сядзібных дамах і палацах 18 — пач. 20 ст., вызначанае як спальнае месца. У большасці выпадкаў не асвятлялася. Аздаблялі А. шпалерамі, размалёўкамі, стукавай ляпнінай (палацы ў Нясвіжы, в. Радзівілімонты Клецкага р-на і інш.). А., як і *алькежы*, развіліся з жылых камор сядзібных дамоў 16—17 ст. *Ю. А. Якімовіч.*

**АЛЬТАНКА**, летняя дэкарыраваная паркавая пабудова каркаснай канструкцыі для адпачынку, сховішча ад непагадзі. Часцей драўляная ці мураваная, была абавязковым архітэктурным кампанентам рэгулярнага парку панскіх сядзіб. Звычайна размяшчалася ў маляўнічай яго частцы, паблізу ракі, возера ці штучнага вадаёму. Найбольшае пашырэнне на Беларусі мела ў 18 ст. ў пейзажах і рэгулярных парках стыляў барока і класіцызму.



Алькеж сядзібнага дома. Гарадскі пасёлак Поразава Свіслацкага раёна.

Часцей мела выгляд ратонды (квадратнай, 8-граннай, круглай у плане), завершанай шатровым або купальным пакрыццём. У наш час размяшчаецца ў гарадскіх парках і прыгарадных зялёных зонах, на дачных участках, у дварах дамоў, школ, дзіцячых садоў, на аўтобусных прыпынках. *У. С. Гуркоў.*

**АЛЯКСЕЕЎ** Валерый Паўлавіч (н. 22.8.1929, Масква), рускі савецкі антраполаг і гісторык. Акад. АН СССР (1988), чл.-кар. АН СССР (1981), д-р гіст. навук (1967). Скончыў Маскоўскі ін-т усходазнаўства (1952). З 1985 галоўны навуковы супрацоўнік Ін-та этнаграфіі АН СССР, з 1988 дырэктар І-та археалогіі АН СССР. Працы па этнічнай антрапалогіі і геаграфіі чалавечых рас. Даследуе сучаснае насельніцтва Усх. Еўропы, Каўказа,

Сярэдняй Азіі, Сібіры, Манголіі, Індыі, Кубы і інш., палеантрапалагічныя матэрыялы пра раннія стадыі антрапагенезу, стараж. насельніцтва на тэр. СССР у сувязі з пытаннямі этнагенезу. Разглядаючы суадносіны раса- і этнагенезу, вызначыў ролю геагр. і сацыяльных фактараў у расавай дыферэнцыяцыі чалавецтва. Прапанаваў прынцыпова новую класіфікацыю чалавечых рас, заснаваную на паслядоўнасці ўзнікнення ачагоў расаўтварэння. У кнізе «Паходжанне народаў Усходняй Еўропы» (1969) абагуліў палеантрапалагічныя даныя, у т. л. па беларусах у 19 ст. Фарміруе навуковую тэматыку для групы антрапалогіі пры Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, садзейнічае планамернаму разгортванню даследаванняў па этнічнай антрапалогіі беларусаў.

*Тв.*: География человеческих рас. М., 1974; Палеоантропология земного шара и формирование человеческих рас.: Палеолит. М., 1978; Историческая антропология. М., 1979; Становление человечества. М., 1984; Географические очаги формирования человеческих рас. М., 1985; Этногенез. М., 1986. *І. І. Салівон, Л. І. Цягака.*

**АЛЯКСЕ́Й**, прысвятак у *народным календары* (адзначаўся 17 сакавіка с. ст.). У гэты цёплы веснавы дзень (таму называлі яшчэ А. цёплы, веснавы) чакалі прылёту буслоў, у некаторых рэгіёнах пачыналі сеяць лён, авёс («Аляксей сохі чэша, хамуты строе»). У прырэчных вёсках А. лічыўся днём рыбалова, калі дазвалялася рамантаваць сеткі («Аляксей сеці садзіць, лодкі смаліць»). Бортнікі на А. падглядалі пчол: «На цёплага Аляксея рыба ідзе на нераст, карова на верас, а бортнік на хвою». *А. Ю. Лозка.*

**АЛЯХНО́ВІЧ** (Olechnowicz) Мсціслаў (22.2.1905, Гродна — 24.7.1982), польскі лінгвіст. Д-р гуманітарных (1963) і педагагічных (1966) навук. Праф. (1974). Скончыў Віленскі ун-т (1938). У 1939—41 працаваў у газ. «Новая жизнь» і «Красная звезда» ў Вільні. З 1944 дырэктар Цэнтр. дзярж. рэпатрыяцыйнай установы. З 1949 выкладчык, з 1954 заг. кафедры замежных моў, з 1966 кафедры рускай філалогіі Лодзінскага ун-та. У 1972—75 дырэктар Ін-та рускай філалогіі. Даследаваў рускую і бел. мовы, бел. этнаграфію і фальклор, руска-беларуска-польска-літоўскія фальклорныя і моўныя сувязі. Аўтар прац «Польскія запазычанні беларускай мовай (ад паловы XVI стагоддзя да 1863 г.)» (1964), «Даследчыкі палескага фальклору ў першай палове XIX стагоддзя» (1965), «Беларускія элементы ў польскай песні першай паловы XIX стагоддзя» (1966), прадмовы да кнігі О. Кольберга «Беларусь — Палессе» (1968), «Тэарэтычныя асновы дыстрыбуцыі рускага слоўнага націску» (1974), «Дыдактычная граматыка рускай мовы» (з А. Спірыдовічам, 2 выд., 1980), «Польскія даследчыкі беларускага фальклору і мовы ў XIX ст.» (1986) і інш. *Л. А. Малаш.*

**АМЕ́ЦІ** дробная салома, каласы, мякіна, што застаецца пасля малацьбы і веяння збожжа. Лакальная назва амецце. Ужываюцца на корм жывёле ў запараным выглядзе.

**АМУЛЕ́Т** (лац. amuletum ад араб.), рэч, якую прымхлівыя людзі насілі на целе і якой прыпісвалі магічныя ўласцівасці: здольнасць адводзіць хваробу, бяду, засцерагаць ад варожых чараў. Вера ў сілу А. ўзнікла ў сувязі з першабытнай *магіяй* і *фетышызмам*, але як перажытак захавалася да нашых дзён. Гл. таксама *Талісман.*

**АНАМА́СТЫКА** (грэч. onomastikós які адносіцца да наймення; ónyma імя, назва), раздзел мовазнаўства, што вывучае паходжанне, структуру і функцыяніраванне ўласных імён і назваў. Уключае антрапаніміку, тапаніміку (падзяляецца на айканіміку, гідраніміку, мікратапаніміку), *этнаніміку*. Уключае таксама тэаніміку, зааніміку і інш., што вывучаюць адпаведна ўласныя імёны багоў і міфалагічных істот (Пярун, Лясун, Вадзянік), клічкі жывёл (Жучка, Лыска). Анамастычны матэрыял — своеасаблівы хавальнік шматлікіх, часта не зафіксаваных інш. крыніцамі фактаў гісторыі, культуры, мовы народа.

**АНГО́БНАЯ РАЗМАЛЁЎКА**, ангоб (франц. engobe), аздабленне керамічных вырабаў вадкім растворам тонка змолатай гліны іншага колеру. Наносяць пэндзлем, пульверызатарам, паліваннем на сыры, высушаны ці абпалены выраб (посуд, кафлю, дробную пластыку), які пакрываюць празрыстай палівай, потым абпальваюць. На Беларусі вядома з 12 ст. (ганчарны посуд, керамічныя пліткі, дробная пластыка з раскопак Гродна, Пінска, Турава, Навагрудка, Полацка). У гарадскім ганчарстве дасягнула росквіту ў 17—18 ст.: сталовы посуд аздаблялі канцэнтрычнымі колцамі, зігзагамі, раслінным узорам, кафлю — геральдычнымі, раслліннымі, зааморфнымі матывамі. У 18 ст. керамічныя вырабы нярэдка поўнасцю палівалі белым ангобам, што імітавала фаянсавыя і фарфоравыя вырабы. З 19 ст. А. р. пашырылася і ў вясковым ганчарстве (гл. *Бабінавіцкая кераміка, Гараднянская кераміка*). Канцэнтрычныя колцы, прамыя і хвалістыя паяскі, разеткі, раслінны ўзор, кропкі наносілі пэндзлем ці ражком (каровін рог з дзіркай на канцы) у працэсе вытворчасці посуду на ганчарным крузе. Асаблівага развіцця А. р. ў выглядзе шырокіх гладкіх і расчасаных хвалямі паясоў *(фляндроўка)* дасягнула ў сярэдзіне 20 ст. ў аздабленні *івянецкай керамікі*. А. р. шырока выкарыстоўваюць сучасныя майстры-ганчары, мастакі-керамісты. *Я. М. Сахута.*

**АНДАРА́К**, паясное адзенне бел. жанчын — спадніца з шарсцяной ці паўшарсцяной саматканкі ў клетку або ў падоўжныя ці папярочныя палосы. Лакальная назва даматкан, сукня. Шылі з 3—5 полак, вытканых у 2—3 ніты. Малюнак утвараўся на вохрыстаружовым, вішнёвым, сінім, зялёным, серабрыста-белым, чорным фоне тканіны. Часта дадатковымі элементамі дэкору служылі запрасаваныя складкі, вышыўка, нашыўкі карункавых тасёмак, стужак. У канцы 19 — пач. 20 ст. найбольш распаўсюджанымі былі клятчастыя А. (чырвона-чорныя клеткі размяшчаліся па ўсім полі — *вайкавыска-камянецкі строй*). Паступова да чорнага і чырвонага колераў пачалі дабаўляць зялёны, ружовы, жоўты і інш. У паўд.-зах. і цэнтр. р-нах Беларусі пераважалі А. ў папярочныя палосы *(ляхавіцкі строй, пухавіцкі строй)*, ва ўсх.— у падоўжныя (шырокія чырвоныя перамяжаліся з больш вузкімі белымі паскамі). З пач. 20 ст. былі пашыраны аднатонныя чырвоныя, сінія і інш. А. Святочныя А. абавязкова гафрыравалі (складзены ў складкі А. клалі на ўслон, накрывалі чыстым ручніком і прыкладвалі гарачым хлебам). Вядомы на ўсёй Беларусі, за выключэннем паўн.-зах. раёнаў; ва ўсх. і паўд.-ўсх. раёнах А. былі з прышыўным ліфам. Выйшаў з ужытку ў 1920-я г., у Зах. Палессі — у 1930-я г. *Г. М. Курыловіч, М. Ф. Раманюк.*

**АНДРЭ́Й**, прысвятак *народнага календара*, які адзначаўся 30 лістапада с. ст. (хрысціянскае свята апостала Андрэя Першазванага). Адметнае *варажбой*, якую наладжвала моладзь (дзяўчаты звычайна варажылі на суджанага). Акрамя агульных форм варажбы (выліванне на ваду расплаўленага воску, выкраданне мужчынскага адзення і г. д.), у гэты дзень дзяўчаты, загадваючы па суджанага, «высявалі» насенне лёну ці канапель ля калодзежа, ля палонкі або ў пасцелі і прыгаворвалі: «Святы Андрэю, канапелькі сею, дай мне знаць, з кім буду век каратаць» (калі кінутае ў агародзе насенне вясной добра прарастала, гэта абяцала дзяўчыне шчаслівы шлюб). Каб жаданні лепш збываліся, дзяўчаты цэлы дзень стараліся вытрымліваць пост і пазбягалі размоў. *У. А. Васілевіч.*

**АНІКІЕ́ВІЧ** Кірыла Цімафеевіч, бел. краязнавец, этнограф і археолаг 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам нар. вучылішчаў у Магілёўскай і Віцебскай губ. Вывучаў побыт бел. сялян, запісваў фальклор, вёў археалагічныя раскопкі, быў пастаянным карэспандэнтам Е. Р. *Раманава* ў час яго работы над «Беларускім зборнікам». Асн. праца «Сенненскі павет Магілёўскай губерні» (Магілёў, 1907), ідэйную накіраванасць якой вызначаюць словы эпіграфа «Хто не хоча ведаць сваёй айчыны, той не заслугоўвае называцца яе сынам». У гэтым даследаванні даў геагр., гіст., эканам. і этнагр. (этнаграфічныя матэрыялы складаюць 3-і раздзел) характарыстыку Сенненшчыны, прывёў звесткі пра коль-

касць насельніцтва павета паводле саслоўнага складу, веравызнання і нацыянальнай прыналежнасці, сцісла ахарактарызаваў жыллё, адзенне, сямейнае і грамадскае жыццё сялян, больш падрабязна разгледзеў заняткі і стан эканомікі сельскага насельніцтва павета. Прыхільна ставіўся да народа, аднак выхад з цяжкага становішча бачыў у павышэнні яго адукацыі і правядзенні зямельных рэформ у рамках існаваўшага ладу. Асаблівасць працы ў паказе ўсіх аспектаў побыту і культуры народа ў развіцці, з характарыстыкай тых змен, што адбываліся ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. *В. К. Бандарчык.*



Андарак. Вёска Збляны Лідскага раёна. 1920-я г.



Андарак. Вёска Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна. Пач. 20 ст.

**АНІМЕ́ЛЕ** Мікалай, беларускі этнограф сярэдзіны 19 ст. Вольнаадпушчаны селянін Віцебскай губ. Сабраныя ім матэрыялы па праграме Рускага геагр. т-ва склалі большую частку працы «Побыт беларускіх сялян» (Этнографический сборник. Спб., 1854. Вып. 2). Пераважнае месца ў ёй займаюць матэрыялы пра духоўную культуру: абрады і звычаі сямейнага (хрэсьбіны, вяселле, хаўтуры) і грамадскага (каляндарныя святы і абрады, талака) жыцця сялян Віцебскай губ. Найбольш падрабязна апісаны парадак уступлення ў шлюб і вясельныя абрады. Прыведзены і звесткі пра жыллё, хатняе начынне, гаспадарчыя пабудовы, адзенне, ежу, прылады працы селяніна. Пры апісанні сямейных абрадаў і вытворчых заняткаў падкрэсліваў сацыяльную і маёмасную дыферэнцыяцыю сялянства напярэдадні адмены прыгоннага права. Прыхільна ставіўся да селяніна, высока ацэньваў яго працавітасць, маральныя і творчыя якасці. У працы змешчаны таксама прымаўкі, песні, паданні. *В. К. Бандарчык.*

**АНІМІ́ЗМ** (ад лац. anima, animus душа, дух), вера ў існаванне душ і духаў — фантастычных істот (аморфных, зааморфных ці антрапаморфных), якія надзелены свядомасцю, воляй і інш. уласцівасцямі чалавека і дзейнічаюць ва ўсёй жывой і нежывой прыродзе. Падваенне навакольнага свету (прыроды і чалавека), падзел яго на матэрыяльную, але нерухомую частку і рухомую, але нематэрыяльную (душы, духі і інш.), якая нібыта ўплывае на ўсе з'явы і прадметы,— характэрная асаблівасць рэлігійнай свядомасці. Узнікла ў старажытнасці ў выніку абмежаванасці адносін людзей да прыроды і паміж сабою. А. папярэднічала веры ў звышнатуральныя ўласцівасці саміх прадметаў — *фетышызм.* Анімістычныя ўяўленні — частка нар. вераванняў беларусаў. З імі былі звязаны многія пахавальныя і памінальныя абрады і звычаі, асабліва *дзяды* (перажытак культу продкаў), некаторыя каляндарныя абрады і звычаі, напр., *«завіванне барады»* (у дажынках). Яны звычайна суправаджаліся кароткімі рытмічнымі выразамі, прыказкамі, песнямі. Найбольш пашыранымі анімістычнымі ўяўленнямі традыцыйнай рэлігіі беларусаў былі вобразы нар. *дэманалогіі:* духі прыроды (*палявік, вадзянік, лясун* і інш.), хатнія духі *(дамавік)*, злыя духі, *чорт* і інш. У некаторых з гэтых вобразаў (напр., палявік, лясун) ёсць і мастацкія рысы. Рэчаіснасць адлюстравана ў іх бессвядомамастацкім спосабам.

У 19 ст. многія анімістычныя ўяўленні (найперш духі прыроды, русалка) страцілі рэлігійныя рысы і асталіся ў бел. фальклоры як мастацкія вобразы нар. фантазіі. Некаторыя духі ў мінулым пераасэнсоўваліся і ўшаноўваліся як божаствы (напр., Спарыш — бажаство ўрадлівасці), якія з пашырэннем хрысціянства сталі элементамі бытавой хрысціянскай міфалогіі (Юрый, Ілля і інш.). Анімістычныя ўяўленні — прыкметны элемент і афіцыйнай хрысціянскай рэлігіі (чорт, «святы дух», анёлы). Яны адлюстраваны як у фальклоры (напр., замовы), так і ў літаратуры, жывапісе і інш. відах мастацтва. *М. Ф. Піліпенка.*

**«АНТО́Н»**, традыцыйны танец. Лакальная назва «Антошка». Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умераны. Ёсць меркаванні, што ён узнік на аснове стараж. «хаджэння з казой». Танцы і ігравыя сцэнкі, што разыгрываліся «казой», суправаджаліся песнямі пра Антона, Антоніху і ўпартую казу. У адным з варыянтаў выканаўцы, узяўшыся за рукі, кружыліся то ў адзін, то ў другі бок; у другім — салісты імправізавалі ў цэнтры круга, ішлі ўпрысядкі. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай абласцях. *Ю. М. Чурко.*

**АНТРАПАГЕНЕ́З** (грэч. ánthrōpos чалавек + génesis паходжанне), адзін з асноўных раздзелаў *антрапалогіі,* што вывучае этапы эвалюцыі чалавека, уплыў біялагічных і сацыяльных заканамернасцей на зменлівасць фізічнага тыпу і развіццё грамадскіх суадносін. Навуковая тэорыя А. адказвае на пытанні, калі, дзе і пры якіх абставінах з'явіўся чалавек на Зямлі. Сучасная сінтэтычная тэорыя эвалюцыі грунтуецца на выніках прыродазнаўчых (антрапалогія, параўнальная анатомія, фізіялогія, псіхалогія, эмбрыялогія, палеанталогія, генетыка) і грамадскіх (этнаграфія, археалогія, мовазнаўства) навук. Асноўныя прынцыпы навуковай тэорыі А., роднасць продка чалавека з чалавекападобнымі малпамі (шымпанзе, гарылай, арангутанам) абгрунтавалі Ч. Дарвін, Т. Гекслі ў канцы 19 ст. Вывучэнне выкапнёвых рэштак паказвае, што ў чалавека і ў сучасных малпаў агульныя продкі, якія больш за 20 млн. гадоў назад засялялі Афрыку, Азію, часткова Еўропу. У біялагічнай эвалюцыі чалавека выдзяляюць паслядоўныя стадыі: «пераходных істот» (У. І. Ленін), або аўстралапітэкаў (Homo habilis — чалавек умелы), якія з'явіліся на Зямлі каля 17 млн. гадоў назад; найбольш стараж. людзей — архантрапаў, яны жылі каля 1 млн. гадоў назад; з гэтага часу прасочваецца расавыя асаблівасці; палеаантрапаў, якія з'явіліся 100—35 тыс. гадоў назад; сучасны чалавек (Homo sapiens), старажытнасць яго на Зямлі каля 50 тыс. гадоў. Правільнае разуменне фактараў А. грунтуецца на тэорыі Ф. Энгельса пра галоўную ролю працы ў працэсе ператварэння малпы ў чала-

века, паводле якой чалавек вылучыўся з жывёльнага свету ў выніку прыстасавання продкаў чалавека да навакольнага асяроддзя праз працоўную дзейнасць. Важным фактарам А. быў пераход ад расліннай ежы да мясной, выкліканы пагаршэннем умоў жыцця ў ледавіковую эпоху. Сацыягенез (развіццё грамадства) праходзіў разам з біялагічнай эвалюцыяй чалавека. Першыя прылады працы (чоперы, рубілы) з'явіліся на стадыі чалавека ўмелага. Мова як сродак зносін людзей сфарміравалася на стадыі архантрапа. Ідэалагічныя ўяўленні фарміраваліся на стадыі палеантрапаў і развіваюцца ў чалавека сучаснага віду. Культурныя адрозненні — аснова сучасных этнічных асаблівасцей — праявіліся на стадыі палеаантрапаў і прасочваюцца ў асаблівасцях вырабу прылад працы: у адных плямён — макралітычныя прылады, у другіх — пераважна мікралітычныя.

Тэрыторыя Беларусі заселена ў палеаліце чалавекам неандэртальскай стадыі. Пра гэта сведчаць археалагічныя матэрыялы, у т. л. са стаянак Бердыж (Чачэрскі р-н) і Юравічы (Калінкавіцкі р-н). Пасля адступлення ледавіка, у эпоху мезаліту, тэр. Беларусі засяляў краманьёнец — чалавек сучаснага тыпу. *Л. І. Цягака.*

**АНТРАПАГЕНЕ́ТЫКА,** навука пра зменлівасць папуляцый чалавека ў часе і прасторы, абумоўленаю спадчыннасцю. Адносна новы кірунак у антрапалагічным вывучэнні сучаснага чалавека (гл. *Антрапалогія*). А. вывучае біялагічныя асаблівасці індывідуума, зменлівасць папуляцый, якая фарміруецца пры ўзаемадзеянні спадчынных задаткаў і асяроддзя з улікам сацыяльных умоў. Напр., патэнцыяльныя прыродныя здольнасці чалавека пры нараджэнні, знаходзячыся пад генетычным кантролем, індывідуальна ўдасканальваюцца, пластычна вар'іруюць у чалавека ў залежнасці ад сацыяльнага акружэння. На жаль, А. была моцна дыскрэдытавана яўгенічнай (гл. *Яўгеніка*) накіраванасцю даследаванняў у пару свайго станаўлення, асабліва генацыдам нямецкіх фашыстаў у гады 2-й сусветнай вайны. А. цесна звязана з прыродазнаўчымі (антрапалогіяй, генетыкай, медыцынай, фізіялогіяй) і грамадскімі (этнаграфіяй, псіхалогіяй, дэмаграфіяй) навукамі. Фарміраванне генафонду папуляцый адбываецца не без уплыву *этнічных працэсаў*. Так, міграцыі насельніцтва, міжнацыянальныя і гетэралакальныя шлюбы, ізаляванае знаходжанне асобных груп садзейнічаюць своеасабліваму развіццю папуляцый. Метады А. (генеалагічны, генагеаграфічны, папуляцыйна-генетычны, статыстычны, генадэмаграфічны і інш.) дазваляюць праліць святло на гісторыю асобных этнасаў, этнічных груповак і ўсяго чалавецтва. Паводле даных антрапалагічнага вывучэння сучаснага насельніцтва, на тэр. БССР вызначаюцца тры генагеагр. зоны, блізкія да групоўкі бел. дыялектаў: паўн.-ўсх., паўд.-зах. і сярэднебеларуская. Рэканструкцыя тыпаў генетычнай дынамікі папуляцый чалавека дазваляе ўстанавіць сярэднюю велічыню часу, патрэбнага для дывергенцыі сучасных этнасаў і іх кансалідацыі. *А. І. Мікуліч.*

**АНТРАПАЛАГІ́ЧНЫЯ ТЫ́ПЫ,** групы людзей з комплексам агульных марфалагічных прыкмет (будова цела, шкілета, чэрапа, колер скуры, валасоў, вачэй і г. д.); дробныя адзінкі антрапалагічнай класіфікацыі, якія належаць адной расе. Фарміраванне А. т. адбываецца на падставе спадчынных асаблівасцей, што склаліся на працягу пакаленняў пад уплывам прыродных і сацыяльных фактараў. Тэрытарыяльнае размяшчэнне А. т., якія гістарычна сфарміраваліся ў працэсе перамяшчэння і скрыжаванняў розных плямёнаў і народнасцей пры іх рассяленні, вывучае этнічная *антрапалогія*. А. т. займаюць пэўныя геагр. арэалы (тэрыторыі), якія звычайна не супадаюць з этнічнымі ці дзярж. межамі. Да аднаго А. т. часта належаць некалькі розных народаў, што сведчыць пра іх фарміраванне на генетычна роднаснай аснове, або адзін народ прадстаўлены некалькімі А. т., што можа разглядацца як вынік неаднароднасці яго паходжання. Таму антрапалагічныя даследаванні выкарыстоўваюцца пры вырашэнні шэрагу этнагенетычных пытанняў. Некаторыя буржуазныя тэарэтыкі памылкова разглядаюць А. т. як нязменныя і незалежныя ад умоў жыцця і нават лічаць біялагічныя прыкметы рашаючым фактарам у грамадскім і культурным развіцці. Аднак другарадныя прыкметы, якімі адрозніваюцца паміж сабой А. т., не маюць жыццёва важнага значэння для чалавека, ніяк не звязаны з яго псіхікай і таму не могуць уплываць на гіст. развіццё грамадства.

У 1956 В. В. Бунак выдзеліў сярод беларусаў 2 асноўныя А. т.: верхнедняпроўскі, да якога належыць насельніцтва паўн.-зах., паўн. і паўн.-ўсх. р-наў рэспублікі, і палескі, што ўключае жыхароў Палесся. Першы характарызуецца сярэднім ростам, светлым колерам скуры, адносна светлымі вачамі і валасамі, сярэднешырокім нізкім тварам з прамой або ўвагнутай спінкай носа і сярэднегустой барадой. Другі тып адрозніваецца больш цёмным колерам вачэй і валасоў, радзей сустракаецца ўвагнутая спінка носа. Выкапнёвыя рэшткі шкілетаў з курганных могільнікаў 10—13 ст. сведчаць пра значнае падабенства розных груп насельніцтва з тэр. БССР. Супастаўленне выкапнёвых рэштак шкілетаў насельніцтва 11—14 ст. і 18—19 ст. сведчыць аб пераемнасці фізічнага тыпу ў пакаленнях (напр., ідэнтычныя прапорцыі твару). На Беларусі, як і на большай частцы тэр. Еўропы, за апошнiя тысячагоддзе форма галавы змянялася з падоўжанай (даліхакефальнай) да акруглай (брахікефальнай, т. зв. працэс брахікефалізацыі); менш масіўным стаў шкілет (працэс грацылізацыі). За апошняе стагоддзе ў беларусаў, як і ва ўсім свеце, назіраецца працэс акселерацыі (больш інтэнсіўны рост цела ў даўжыню, больш ранняе высяванне арганізма), таму сучасныя пакаленні больш рослыя, чым пакаленні пач. 20 ст. Назіраецца падабенства А. т. беларусаў з рускімі, украінцамі, літоўцамі і латышамі ў сумежных з адпаведнымі рэспублікамі р-нах, што абумоўлена этнічнымі і генетычнымі сувязямі ў кантактных зонах.

Даследаванні групы антрапалогіі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, распачатыя ў 1966, удакладнілі антрапалагічную характарыстыку беларусаў. У напрамку з ПдЗ на ПнУ назіраецца нязначнае паслабленне еўрапеоідных рыс: больш нізкая і шырокая пераносіца, часцей сустракаюцца змешаныя адценні колеру вачэй — цёмна-блакітныя, шэрыя, зеленаватыя і нават карычневыя. Сярод насельніцтва Віцебскай вобл. часцей сустракаюцца больш светлыя адценні валасоў і падоўжаная форма галавы, больш рослыя масіўныя індывіды з падоўжанымі прапорцыямі цела (больш доўгімі рукамі і нагамі адносна тулава). У падлеткаў некалькі пазней пачынаецца і заканчваецца высяванне арганізма. Аднак гэтыя адрозненні невялікія, і ўсе лакальныя антрапалагічныя варыянты звязаны паміж сабой узаемапераходамі. Тэрытарыяльнае размеркаванне асаблівасцей будовы цела, груп крыві, асноўных расавадыягнастычных, дэрматагліфічных (варыяцыі скураных малюнкаў на далонях і ступнях) і адантaлагічных (структурныя асаблівасці зубной сістэмы) прыкмет дазваляе аднесці беларусаў да ўсходнееўрапейскага варыянта еўрапеоіднай расы. *І. І. Салівон.*

**АНТРАПАЛО́ГІЯ** (грэч. ánthrōpos чалавек + lógos слова, вучэнне), навука пра паходжанне і эвалюцыю чалавека і яго рас, нармальную зменлівасць яго біялагічных асаблівасцей у прасторы і часе. Цесна звязана з прыродазнаўча-гіст. і сацыяльнымі навукамі і «апасродкуе пераход ад марфалогіі і фізіялогіі чалавека і яго рас да гісторыі» (Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2 изд. Т. 20. С. 501). Складаецца з некалькіх раздзелаў. Антрапагенез вывучае паходжанне чалавека і яго месца ў жывёльным свеце. Расазнаўства вывучае гісторыю і фактары фарміравання рас, распрацоўвае метады іх класіфікацыі. У якасці самастойнай часткі гэтага раздзела вылучаюць этнічную антрапалогію, якая даследуе расавы склад асобных этнасаў; разам з археалогіяй, гісторыяй, этнаграфіяй, мовазнаўствам вывучае этнагенетычныя працэсы. Марфалогія чалавека вывучае заканамернасці зменлівасці будовы цела чалавека ў залежнасці ад умоў жыцця і працы. Уключае саматалогію (даследуе ўзроставыя варыяцыі асаблівасцей цела сучаснага чалавека), мералогію (даследуе варыяцыі асобных частак арганізма),

дэрматагліфіку (даследуе варыяцыі скураных малюнкаў на далонях і ступнях), аданталогію (даследуе структурныя асаблівасці зубной сістэмы сучасных і выкапнёвых людзей і вышэйшых малпаў), палеаантрапалогію (даследуе варыяцыі структур касцявых рэштак выкапнёвых людзей і вышэйшых малпаў). Фізіялагічная А. вывучае варыяцыі функцыянальных асаблівасцей арганізма чалавека і працэсы яго адаптацыі ў розных кліматa-геагр. і сацыяльных умовах. Антрапагенетыка вывучае заканамернасці наследавання антрапалагічных рыс і размеркаванне іх у папуляцыях.

Першыя звесткі па А. сустракаюцца ў працах Герадота (5 ст. да н. э.), Арыстоцеля (4 ст. да н. э., ён увёў тэрмін А. як вучэнне пра духоўную прыроду чалавека), Лукрэцыя Кара (1 ст. да н. э.). Вялікія геагр. адкрыцці 15—16 ст. далі магчымасць пазнаёміцца з рознымі народамі Амерыкі, Акіяніі, Усх. Азіі, у т. л. Усх. Сібіры і інш. і распачаць сістэматызацыю чалавечых рас. Эвалюцыйная тэорыя Ч. Дарвіна абвергла тэалагічнае вучэнне пра паходжанне чалавека і садзейнічала развіццю матэрыялістычнай тэорыі антрапагенезу. Як самастойная навука А. склалася ў 19 ст. Узніклі антрапалагічныя ўстановы ў Парыжы (1859), Лондане (1863), Мадрыдзе (1865), Берліне (1869), Вене (1870), Стакгольме (1873). У 1864 па ініцыятыве А. П. Багданава створаны антрапалагічны аддзел Т-ва аматараў прыродазнаўства пры Маскоўскім ун-це, у 1893 узнікла Антрапалагічнае т-ва пры Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Пецярбургу. У 1879 Багданаў арганізаваў антрапалагічную выстаўку, экспанаты якой сталі асновай Музея антрапалогіі пры Маскоўскім ун-це. У 2-й пал. 19 ст. А. вывучала пераважна расавыя асаблівасці, збірала палеаантрапалагічныя матэрыялы і распрацоўвала методыку антрапаметрыкі. Абвастрэнне супярэчнасцей паміж метраполіямі і калоніямі ў канцы 19 ст. прывяло да ўзнікнення антынавуковых антрапалагічных тэорый расізму, якія апраўдвалі эксплуатацыю і знішчэнне каланіяльных народаў. Іх рэакцыйную сутнасць выкрывалі прагрэсіўныя антраполагі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачаліся планамерныя даследаванні фізічнага развіцця і антрапалагічнага складу народаў СССР. Прагрэсіўныя ідэі, закладзеныя ў працах К. М. Бэра, Багданава, Дз. М. Анучына, М. М. Міклухі-Маклая, далей развіты ў даследаваннях сав. вучоных В. В. Бунака, Я. Я. Рагінскага, Г. Ф. Дэбеца.

Даследаванні антрапалагічнага складу бел. насельніцтва пачаліся ў канцы 19 — пач. 20 ст. Іх праводзілі Анучын (1889), М. А. Янчук (1890), К. Н. Ікаў (1890), А. Н. Раждзественскі (1902), А. Л. Здраеўскі (1905), А. А. Піантkоўскі (1905). Характарыстыцы фізічнага тыпу беларусаў і іх паходжанню прысвечаны працы Ю. Д. Талька-Грынцэвіча, вынікі папярэдніх даследаванняў абагульнілі А. А. Іваноўскі, Я. М. Чапуркоўскі. У 1926 па ініцыятыве А. К. Ленца пры Інбелкульце створана антрапалагічная камісія, пазней рэарганізаваная ў кафедру антрапалогіі Бел. АН. Планамерныя даследаванні (вымярэнне насельніцтва ў спалучэнні з вывучэннем груп крыві і нервовай дзейнасці) праводзіліся ў Слуцкім, Мазырскім, Магілёўскім, Аршанскім р-нах. Вынікі гэтых даследаванняў выкладзены ў працах Ю. М. Варамецкай, П. Я. Вішнеўскага, А. А. Смірнова, Д. Л. Эйнгорпа. У 1920—30-я г. Бунак вывучаў фізічны тып і размеркаванне груп крыві ў беларусаў, даследаваў краніялагічныя калекцыі сярэдневяковага насельніцтва Беларусі. Рэшткі сярэдневяковага насельніцтва вывучалі таксама Дэбец, Т. А. Трафімава, В. В. Сядоў, Т. І. Аляксеева. У 1955—59 антрапалагічная экспедыцыя Ін-та этнаграфіі АН СССР (М. У. Вітоў, Р. Я. Дзянісава, Бунак, В. Дз. Дзячэнка) правяла планамернае даследаванне сучаснага насельніцтва БССР. У 1965 пры Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР створана група А. Праводзяцца комплексныя антрапалагічныя даследаванні, вывучаецца фізічны тып стараж. і сучаснага насельніцтва Беларусі (І. І. Салівон), яго дэрматагліфічныя і адантaлагічныя асаблівасці (Л. І. Цягака), размеркаванне груп крыві і інш. генетычна абумоўленых прыкмет у розных тэрытарыяльных групах (А. І. Мікуліч), праводзяцца генадэмаграфічныя даследаванні ў гарадах (В. У. Марфіна) і вывучэнне заканамернасцей росту і развіцця вучняў у розных рэгіёнах рэспублікі (Салівон, Н. І. Поліна). У Мінскім медыцынскім ін-це вывучаецца спадчыннасць дэрматагліфічных прыкмет (І. С. Гусева), размеркаванне некаторых марфалагічных прыкмет у блізнят (Р. У. Дэрфліо), у НДІ аховы мацярынства і дзяцінства — фізічнае развіццё сельскіх вучняў Бел. Палесся (Г. І. Вярэніч).

*І. І. Салівон.*

**АНТРАПАМАРФІ́ЗМ** (грэч. ánthrōpos чалавек + morphē форма, від), прыпадабненне чалавеку, надзяленне чалавечымі ўласцівасцямі (напр., свядомасцю) прадметаў і з'яў нежывой прыроды, нябесных цел, міфічных істот. Узнік аднaчасова з фарміраваннем абстрактнага мыслення, мастацтва, рэлігіі; пашырыўся ў працэсе развіцця *анімізму*. Паводле старажыт. павер'яў, на Беларусі антрапаморфнымі былі многія вобразы нар. *дэманалогіі*. Звычайна ім надавалі выгляд мужчын, пераважна старых дзядоў *(дамавік, лясун, вадзянік, жыцень)*, часам уяўлялі ў жаночым абліччы *(жытняя баба, русалка* і інш.). Антрапаморфнымі лічылі ўсх.-слав. язычніцкіх багоў, пераважна ўяўлялі іх мужчынамі (*Пярун, Дажбог, Вялес* і інш.), значна радзей — жанчынамі (Макош). Большасць персанажаў хрысціянскай міфалогіі таксама мае выгляд мужчын (Хрыстос, святыя Юрый, Мікола, Ілля), персанажаў у жаночым абліччы вельмі мала (найбольш пашырана ўяўленне аб святой Марыі). У працэсе пераадолення рэлігійных ілюзій А. страчвае рэлігійныя рысы.

*М. Ф. Піліпенка.*

**АНТЫКА́МЕРА** (італ. anticamera), пакой у палацах 16—18 ст. перад магнацкай святліцай, чакальня для дваран і пакаёвых, часта — памяшканне рознага прызначэння (сталовая, зала і г. д.). На Беларусі ў палацах 17—18 ст. злучала прыхожую з жылой групай, кабінетамі і інш.

**«АНЦУЕ́ЛЯ»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Выконваўся ў 2 ці 4 пары, кожная пара танцавала па чарзе, потым усе выстройваліся ў круг. Асноўны элемент руху — галоп. Зафіксаваны ў 19 ст. на Навагрудчыне.

**АПАЛО́НІК**, палонік, вялікая драўляная лыжка, якой разліваюць страву. Вырабляюць з мяккіх парод дрэва. Мае зграбную форму, зручны ў карыстанні. У наш час замест А. выкарыстоўваецца *чарпак*. На Палессі А. называюць перапечку (хлеб круглай формы, пераважна з пшанічнай мукі).

**АПА́ЛУШКІ**, невялікія *начоўкі* для ачысткі (правейвання) зерня ў хатніх умовах.

**АПАРТАМЕ́НТЫ** (ад франц. appartement кватэра), група жылых і дапаможных пакояў, звычайна на адным паверсе, выдзеленых у адзін комплекс для пражывання пэўнай асобы. У бел. сядзібна-палацавым дойлідстве вядомы з 16 ст. ў будынках шляхты і магнатаў, дзе існаваў падзел на жылую і парадную



Апалонік.

ці гаспадарчую палавіны. Жылая палавіна аддзялялася ад астатніх частак дома сенцамі. Працейшы варыянт А.— аб'яднаныя ў адзіны блок жылое памяшканне і адна ці некалькі *камор*. У 16—17 ст. вядомы і больш складаныя паводле планіроўкі А., у якія ўваходзілі жылыя пакоі, *алькеж*, каморы, дадатковыя сенцы і г. д. (в. Ішкалдзь Баранавіцкага, в. Грозава Капыльскага р-наў, г. Паставы). У багатых палацах 17—19 ст. А. мелі больш складаную будову памяшканняў, яны часам займалі цэлы паверх (г. п. Навaельня Дзятлаўскага р-на, г. Камянец). У 2-й пал.— 19—20 ст. прынцып стварэння асобных А. выявіўся ў секцыйных, блакіраваных і інш. дамах.

*Ю. А. Якімовіч.*

**АПАТРАПЕ́Й** (ад грэч. apotrópaios тое, што адводзіць бяду), прадмет, выява або дзеянне, якім прыпісвалі

магічную здольнасць засцерагаць ад няшчасцяў і злых духаў. Народная назва абярэг. З эпохі палеаліту ў якасці А. выкарыстоўвалі *амулеты* з зубоў, кіпцюроў і касцей жывёл. Разнастайныя амулеты-А. характэрны для эпохі славянскага язычніцтва і ранняга хрысціянства: у курганных могільніках 9—13 ст. на Беларусі знойдзены амулеты-падвескі (лунніцы, крыжыкі), амулеты-змеевікі, змеегаловыя бранзалеты і інш.

Апатрапейная сімволіка прысутнічала ў традыцыйнай сямейнай і каляндарнай абраднасці. У якасці А. выкарыстоўвалі «завівала», якім на Палессі пакрывалі маладую ў найбольш адказныя моманты вяселля; апраналі да вянца незалежна ад пары года верхняе суконнае або футравае адзенне. А. лічылася вада пасля абмывання нябожчыка, абсыпанне нябожчыка, прысутных і ўсёй хаты зернем і інш. У радзіннай абраднасці засцерагальныя ўласцівасці прыпісвалі адзенню бацькі нованароджанага. Апатрапейная заклінальная *магія* — неад'емная частка вясенне-летніх абрадаў: рытуальнае сцябанне людзей і жывёлы асвячонай вярбой з традыцыйнымі прыгаворамі; асвячэнне вуглоў новай хаты свянцонай вадой; абвядзенне магічнага круга вакол двара ў час падрыхтоўкі да вясенняга севу, трохразовы абыход жывёлы з магічнымі прадметамі і заклінаннямі перад першым выганам у поле; выкарыстанне юраўскай расы, абрадавага печыва ў выглядзе крыжа і інш. А. служылі кароткія формулы-заклінанні, разгорнутыя замовы, якія нібыта засцерагалі ад усяго шкоднага. Апатрапейную накіраванасць мелі такія формы калектыўнай абраднасці, як абворванне вёскі, хрэсны ход, тканне *абыдзённіка*, здабыванне т. зв. «жывога» агню спосабам трэння. Адным з дзейсных А. здаўна лічыўся чырвоны колер, таму ў мэтах перасцярогі выкарыстоўвалі чырвоныя ніткі, стужкі, хусткі, паясы. Лічаць, што з падобным успрыманнем звязаны і традыцыйны чырвоны вышываны і тканы арнамент. Апатрапейнымі ўласцівасцямі надзялялі *аброчныя тканіны*, шпількі, падковы. А. лічыліся хлеб, вада, агонь, раса, зямля, вострыя металічныя прадметы, чалавечыя валасы, бурштын, а таксама зерне, ільняное валакно і семя, мак, моцна пахучыя расліны (цыбуля, часнок, мята, палын) і інш.

*В. Я. Фадзеева.*

**АПАЧЫ́НА,** рулявое вясло на першым звяне плыта на Нёмане і Сожы; бервяно даўж. каля 4 м. Апушчаны ў ваду канец А. абчэсвалі ў выглядзе лопасці, верхні замацоўвалі ва ўключыны (качоты).

**АПЛІКА́ЦЫЯ** (ад лац. applicatio прыкладванне) у н а р о д н ы м  м а с т а ц т в е, спосаб стварэння дэкору (арнаменту, малюнкаў) шляхам нашывання ці наклейвання на аснову (тканіну, паперу, дошку, скуру) кавалачкаў матэрыялу інш. колераў ці фактуры (тканіны, паперы, скуры, саломкі і інш.); твор, выкананы такім спосабам. На Беларусі А. аздабляюць адзенне, куфры, шкатулкі і інш. рэчы.

А. каляровымі бавоўнянымі шнурамі (каснікамі, касіцамі), палоскамі тонкай скуры, сукна ўпрыгожвалі традыцыйнае жаночае і мужчынскае суконнае адзенне. У 19—1-й пал. 20 ст. на Палессі А. арнаментавалі сарочкі, фартухі, спадніцы, галаўныя ўборы, кажухі *(кобрынскі строй, мотальскі строй)*, жаночыя кабаты *(калінкавіцкі строй, турава-мазырскі строй)*. Ужываліся каляровыя палоскі саціну, разнакалерная тасьма, стужкі, гузікі і інш., якія нашывалі ў выглядзе хвалепадобных ліній, геаметрычных і стылізаваных раслінных узораў. На Віцебшчыне (часткова на Магілёўшчыне і Гомельшчыне) А. з кавалачкаў каляровых тканін упрыгожваюць плоскія падушачкі-падручнікі. Драўляныя куфэркі, шкатулкі, сальніцы, рамкі для фатаграфій і люстэркаў аздабляюць А. аднатоннай ці паліхромнай саломкай. На Міншчыне і Гродзеншчыне (Старадарожскі, Любанскі, Смаргонскі, Ашмянскі р-ны) у тэхніцы саломкавай А. робяць насценныя дываны, кампазіцыя якіх аналагічна тканым і маляваным дыванам.

*В. Я. Фадзеева.*



**Аплікацыя** саломкай на тканіне (фрагмент дывана). Вёска Рухава Старадарожскага раёна.



**Аполак** для мяздрэння скуры.

**«АПО́ВЕСЦЬ МІНУ́ЛЫХ ГАДО́Ў»,** «П о в е с т ь  в р е м е н н ы х  л е т», помнік усходнеславянскага летапісання. Складзена ў пач. 12 ст., верагодна, манахам Кіева-Пячэрскага манастыра Нестарам на аснове больш ранніх крыніц. Захавалася ў розных летапісных зводах (Лаўрэнцьеўскі летапіс, Іпацьеўскі летапіс, Радзівілаўскі летапіс і інш.), у скарочанай рэдакцыі — у шматлікіх гіст. зборніках і хранаграфічных кампіляцыях. Асноўны змест твора — паліт. гісторыя ўсх. славян, Кіеўскай дзяржавы, якая пададзена на шырокім міжнар. фоне ў сувязі з гісторыяй суседніх краін і народаў. Ва ўступнай, недатаванай частцы напісанай у форме гіст. аповесці пра далёкае мінулае Русі, гаворыцца пра паходжанне славян, рассяленне ўсх.-слав. плямёнаў з іх прарадзімы (паводле летапісца, знаходзілася ў раёне р. Дунай): паміж Прыпяццю і Зах. Дзвіною аселі дрыгавічы, па Сожы і яго прытоках — радзімічы, у Вярхоўях Дняпра, Зах. Дзвіны і Волгі — крывічы і інш. Апісваецца іх лад жыцця, некаторыя асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры. Кожнае племя ці саюз плямён мелі свае паліт. аб'яднанні — княжанні, свае традыцыі і звычаі, якія да прыняцця хрысціянства, як сцвярджаецца ў «Аповесці», былі даволі грубыя, варварскія. Усх. славяне спальвалі нябожчыкаў, ладзілі гульбішчы і танцы, спявалі «д'ябальскія» песні, выкрадалі дзяўчат. Яны верылі ў розных язычніцкіх божастваў і дэманаў, рабілі капішчы, ставілі ідалы, пакланяліся ім і прыносілі ахвяры. Першым сярод божастваў лічыўся *Пярун*, уладар неба, бог грому і маланкі. Вялікай пашанай карысталіся жрацы (валхвы) і чараўнікі. Цікавая звестка пра полацкага князя Усяслава Брачыславіча, які, паводле слоў летапісца, нарадзіўся ад «валхавання» і ў «сарочцы», якую заўсёды насіў на сабе. Крыніцай для ранняй гісторыі славян былі эпічныя легенды і гіст. паданні. У датаванай частцы «Аповесці» ў храналагічнай паслядоўнасці і ў пагадовай форме выкладзена гісторыя Русі ад 852 («В лето 6360...») і да 1110 уключна, праўдзіва адлюстравана эпоха гераічнай барацьбы ўсх. славян за сваю свабоду і незалежнасць, за паліт. аб'яднанне дзяржавы. Грунтоўна апісаны перыяд княжання Уладзіміра Святаславіча і 2-я пал. 11 ст., калі жыў і працаваў Нестар-летапісец. Значнае месца займаюць звесткі па гісторыі рускай царквы, падрабязна апісана гісторыя хрышчэння Русі. Літаратурнымі крыніцамі для аўтара зводу паслужылі папярэднія кіеўскія і візантыйскія хронікі, жыції і дакументальныя матэрыялы, а таксама Біблія. «А. м.г.» — твор глы-

бока патрыятычны, прасякнуты ідэяй адзінства і незалежнасці Русі, сведчыць пра высокі ўзровень развіцця гіст. самасвядомасці ўсх. славян. Летапісцы былі выразнікамі інтарэсаў і поглядаў перадавых слаёў старажытнарускага грамадства. Іх горача хваляваў лёс радзімы. Яны паэтызавалі яе гераічнае мінулае, апявалі подзвігі яе герояў, асуджалі міжкняжацкія сваркі, якія аслаблялі магутнасць дзяржавы. Багатая зместам і арыгінальная па форме «Аповесць» — каштоўная крыніца пазнання жыцця продкаў рускага, бел. і ўкр. народаў. Яна садзейнічала далейшаму развіццю летапісання на ўсх.-слав. землях, паслужыла асновай многіх летапісных зводаў і гіст. кампіляцый.

Летапіс змяшчае унікальныя звесткі з гісторыі бел. зямель эпохі Кіеўскай Русі, асабліва Полацкага княства. Толькі ў гэтым творы апавядаецца пра полацкага князя 10 ст. Рагвалода і яго дачку Рагнеду. Падрабязна выкладзена гісторыя жыцця і дзейнасці князя Усяслава Брачыславіча, які апеты ў «Слове пра паход Ігаравы» як агульнарускі герой. У «Аповесці» прыведзены самыя раннія звесткі пра Полацк, Мінск, Тураў, Пінск, Бярэсце, Друцк і інш. бел. гарады. На землях Беларусі была вядома ў эпоху феадальнай раздробленасці, бытавала ў складзе розных летапісных зводаў. Ускосна паўплывала на гіст. канцэпцыю і жанравую форму першага бел. зводу. Сюжэты і вобразы «Аповесці» выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці пісьменнікі і мастакі ўсх.-слав. народаў.

*Публ:* Повесть временных лет. Ч. 1—2. М.; Л., 1950; Полное собрание русских летописей. Т. 1—2. М., 1962.

*В. А. Чамярыцкі.*

**АПО́ЕК,** 1) цяля 3—5 тыдняў, выкармленае малаком. Лакальная назва апойка. 2) Скура для абутку, вырабленая са скуры цяляці-апойка. Лічылася высакаякаснай і каштоўнай.

**АПО́ЛАК,** 1) крайняя, выпуклая з аднаго боку, дошка, атрыманая пры распілоўцы бервяна. 2) Прыстасаванне для мяздрэння і галення скуры; тое, што і *калода*.

**АПО́ЛЕЦ,** вялікі кавалак свінога сала, выразаны пры разбіранні тушы.

**АПО́РКІ,** старыя боты з адрэзанымі халявамі.

**АПО́ЎЗІНЫ,** звязаныя канцамі бярозавыя ці інш. дубцы, што ўскладаюць на стог для ўмацавання сена.

**АПТЭ́ЧКА,** памяшканне тыпу гаспадарчай *каморы* ў шляхецкіх і магнацкіх сядзібных дамах 16—19 ст., дзе захоўвалі высушаныя лекавыя расліны, кухонныя спецыі. Звычайна А. размяшчалася каля сенцаў або кухні. Унутры пры сценах рабіліся паліцы, стэлажы; невялікія вокны зачыняліся драўлянымі або металічнымі кратамі і аканіцамі, часам не мелі шыбаў. *Ю. А. Якімовіч.*

**АПУ́КА,** народная гульня. Гуляюць дзве каманды. Кожная выбірае вядучага. На пляцоўцы праводзяць 2 лініі паміж камандамі на адлегласці 30—40 м. Удзельнікі каманды «горада» па чарзе бітой кідаюць апуку (мяч памерам з тэнісны) у бок праціўніка (у «поле»). Калі гульцы «палявой» каманды злоўяць мяч з лёту, каманды мяняюцца месцамі. Калі мяч не злоўлены, «палявыя» гульцы падхопліваюць яго і ад сваёй лініі кідаюць у гульца «гарадской» каманды, які ў гэты час павінен дабегчы да чужой лініі і вярнуцца да сваіх; калі мяч пападзе ў гульца, каманды таксама мяняюцца месцамі. У залежнасці ад мясцовай назвы мяча, «горада», «поля» і інш. элементаў гульня называецца перагон, салавей, ілкі, лавец.

**АПУ́ХА,** футравая абляможка адзення (часцей за ўсё кажухоў) або абутку.

**АРА́Л,** п р ы ч а л, забіты ў зямлю моцны кол для замацавання *плыта* каля берага. Прычальваючы на начлег, плытагоны прывязвалі плыт да А. канатам з *віц*.

**АРНА́МЕНТ** (ад лац. ornamentum упрыгожанне), узор з рытмічна ўпарадкаваных элементаў для аздаблення твораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, архітэктурных збудаванняў, прадметаў хатняга ўжытку. У залежнасці ад матэрыялу выконваецца рознымі тэхнічнымі сродкамі. У бел. нар. мастацтве вядомы тканы, вышываны, плецены, набіваны, аплікацыйны, ляпны, гравіраваны, разьбяны, маляваны і інш. А. (нар. назвы: аздоба, цацкаванне, украса).

На Беларусі найбольш раннія формы А. выяўлены на рэчах эпохі верхняга палеаліту (вырабы з косці і рогу). Пашырыўся ў мезаліце, дасягнуў значнай разнастайнасці ў мастацтве неаліту (на керамічным посудзе, касцяных вырабах побач з геаметрычным А. сустракаюцца антрапаморфныя, арнітаморф-



**Арнамент** разьбы фрыза і ліштваў.



Тканы **арнамент.**



Вышываны **арнамент.**

ныя выявы). У жалезным веку арнаменталіся і металічныя вырабы. Бел. А. развіваўся ў рэчышчы культуры Стараж. Русі ва ўзаемасувязі з рускім, украінскім, літоўскім, польскім арнаментальным мастацтвам і набыў нацыянальную адметнасць у перыяд фарміравання бел. народнасці (14—16 ст.). Характэрныя рысы бел. А. найбольш выразна выяўлены ў нар. *вышыўцы, ткацтве, разьбе па дрэве, кераміцы.*

Традыцыйны бел. вышываны А.— складанае перапляценне некалькіх разнастайных па храналогіі і этнічных традыцыях пластоў. Пераважае геаметрычны ўзор, асноўныя элементы якога — прамыя і зігзагападобныя лініі, трохвугольнікі, рознай формы крыжыкі, шматпялёсткавыя разеткі, квадраты, прамавугольнікі. Характэрная асаблівасць — дамінаванне ромба (круга) і яго шматлікіх па канфігурацыі варыянтаў, вакол якіх звычайна кампануюцца іншыя фігуры. Ромба-геаметрычным А. звычайна ўпрыгожвалі жаночае адзенне (наміткі і інш. галаўныя ўборы, кашулі, фартухі, спадніцы). Нацыянальная самабытнасць вышыванага А. праяўляецца ў колеравай гаме (спалучэнне чырвонага з нязначнымі дадаткамі чорнага або сіняга на белым фоне палатна), у выкарыстанні пэўных прыёмаў арнаментацыі (лікавыя швы), у распрацоўцы матываў. Пераважаюць узоры арнаментальных палос-бардзюраў, у некаторых рэгіёнах сустракаюцца сеткавыя кампазіцыі (размяшчэнне фігур уздоўж прамых ці нахіленых восей), а таксама А. з выкарыстаннем адзінкавых (медальённых) матываў. На рубяжы 19—20 ст. выкарыстоўваўся таксама раслінна-геаметрызаваны і раслінны А.: асаблівую папулярнасць набылі выявы гнуткай хвалепадобнай галінкі з рытмічна адыходзячымі ў розныя бакі кветкамі і лісцем, вінаграднай лазы з гронкамі, квітучага вазона, стылізаванага дрэва-кветкі і інш. Радзей ужываліся арнітаморфныя і зааморфныя матывы (стылізаваныя выявы пеўняў, качак, галубоў, індыкоў на ручніках, кашулях, фартухах). У А. бел. тканых вырабаў пераважаюць ромба-геаметрычныя ўзоры бранага (перабіранага) ткацтва, якімі арнаментавалі жаночыя і мужчынскія кашулі, паясы, посцілкі, ручнікі, абрусы. Стылістычная распрацоўка ўзораў стараж. перабірання мела шмат агульных рыс з А. традыцыйнага палескага нашывання наборам (*процягам*). Нескладаны геаметрычны А. у клеткі, кругі («шашкі», «балонкі», «люлькі», «каціныя лапкі») характэрны для ручнікоў, абрусаў, посцілак, выраблены 4-, 8-нітовым ткацтвам. Разнастайнасцю арнаментальных форм вызначаюцца посцілкі і дываны, выкананыя ў тэхніцы адна- і двухбаковага пераборнага ткацтва: узоры ў выглядзе буйных ромбаў, квадратаў з 8-пялёсткавымі разеткамі (зоркамі), раслінныя (вазоны, дубовае лісце, вінаград), зааморфныя (каты, ільвы). На ручніках тканi таксама выявы галубоў, пеўняў і інш. Строгай геаметрычнасцю вылучаецца А. плеценых з нітак асновы карункаў, дробнаўзорыстых плеценых чапцоў, паясоў. Для вязаных кручком (радзей пруткамі) абрусаў, сурвэтак, прошваў, карункаў характэрна гарманічнае спалучэнне геаметрычнага А. з раслiннымі ўзорамі, зааморфнымі і арнітаморфнымі матывамі. З даўніх часоў на Беларусі арнаментальнай разьбой (контурнай, рэльефнай, выемчатай, ажурнай) аздаблялі жыллё (вільчакі, ліштвы, дзверы, ганкі), мэблю, прылады працы, посуд, табакеркі, рамкі, набоечныя і пернікарскія дошкі. Традыцыйныя элементы — нарэзкі, рубчыкі, зубцы, паскі, зігзагі, разеткі. Асаблівай прыгажосцю вызначаліся разьбяныя ўзоры прылад, што прызначаліся для падарункаў жанчынам,— прасніц, чаўнакоў, цурак, качалак. У А. пераважалі традыцыйныя геаметрычныя і стылізаваныя зааморфныя, раслінныя ўзоры. А. бел. керамікі звычайна абмяжоўваўся сціплымі штампаванымі, гравіраванымі або ляпнымі ўзорамі хвалістых і роўных палосак, сетак, елачак. Паліваныя вырабы аздаблялі *ангобнай размалёўкай* у выглядзе кропак, завіткоў, раслінных матываў. А. упрыгожвалі звычайна верхнюю частку посуду, дно і сценкі талерак і місак. У наш час са змяненнем тэхнічных прыёмаў і спосабаў аздаблення адбыліся змены ў традыцыйным А. У параўнанні з узорамі канца 19 — пач. 20 ст. прыкметна ўзбуйняюцца арнаментальныя матывы, манахромная гама ўзбагачаецца дадатковымі колерамі, ускладняецца форма вырабаў, ужываюцца новыя тэхнікі і матэрыялы арнаментацыі, нацыянальныя формы А. папаўняюцца новымі элементамі, у т. л. сав. эмблематыкай. *В. Я. Фадзеева.*

**АРСЕНА́Л** (франц. arsenal, італ. arsenale ад араб. дар ас-сінаа — майстэрня), ц э й х г а у з (ням. Zeughaus ад Zeug зброя+Haus дом), будынак, прызначаны для захавання зброі і боепрыпасаў, часткова для іх вырабу і рамонту. На Беларусі ўзводзіліся ў гарадах, буйных замках і сядзібна-палацавых комплексах. Гэта былі вялікія драўляныя ці мураваныя 1- або 2-павярховыя будынкі. У іх вылучаліся памяшканні, дзе захоўваліся неабходныя для абароны гарматы, ручныя стрэльбы, халодная зброя, запасы пораху, ядраў, куль і г. д. У невялікіх шляхецкіх сядзібах функцыі А. выконвалі *лямусы, скарбніцы.*

*Ю. А. Якімовіч.*

**А́РФА,** машына з ручным прыводам для веяння абмалочанага збожжа; тое, што і *веялка фабрычная.*

**АРХЕАГРАФІ́ЧНЫ ЗБО́РНІК ДАКУМЕ́НТАЎ,** «А р х е о г р а ф и ч е с к и й с б о р н и к д о к у м е н т о в, о т н о с я щ и х с я к и с т о р и и С е в е р о - З а п а д н о й Р у с и, и з д а в а е м ы й п р и У п р а в л е н и и В и л е н с к о г о у ч е б н о г о о к р у г а», серыйнае выданне дакументаў па гісторыі гаспадаркі, палітычнага ладу, суда, права і царквы Беларусі і Літвы 15—19 ст. Выйшла 14 т. (1867—1904). У выданні ўдзельнічалі П. А. Гільтэбрант, Дз. І. Даўгяла, Ф. М. Дабранскі, Ю. Ф. Крачкоўскі і інш. Змешчана шмат матэрыялаў пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, у т. л. пра гаспадарча-вытворчую дзейнасць, копныя суды, звычаёвае права, адзенне, жыллё, ежу, рамёствы, абрады, звычаі, сямейны і грамадскі побыт. Шмат царкоўных актаў. Ёсць дакументы па гісторыі Магілёва («Записки игумена Ореста»), Смаленска, пра барацьбу працоўных супраць феадалаў і інш. Частка дакументаў надрукавана на мове арыгінала (бел., польскай, лацінскай), частка ў перакладзе на рускую мову, невялікая колькасць на нямецкай, французскай, італьянскай мовах. У 1905 І. Я. Спрогіс склаў і выдаў падрабязны алфавітны паказальнік да т. 1—13.

**АРХЕАЛАГІ́ЧНА - ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й ГО́МЕЛЬСКАГА ДЗЯРЖА́ЎНАГА УНІВЕРСІТЭ́ТА** і м я Ф. С к а р ы н ы. Заснаваны ў 1980 як археалагічны. Адкрыты 15.10.1980. Пазней створаны этнагр. аддзел. Агульная пл. музея 36 м². У экспазіцыі прылады працы з археалагічных раскопак, фрагменты посуду эпох неаліту, бронзы, мілаградскай і зарубінецкай культур, гліняныя прасліцы, 7-прамянёвыя, бранзалета- і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, бронзавыя фібулы, пацеркі (шкляныя пазалочаныя бочкападобныя і цыліндрычныя, сердалікавыя біпірамідальныя, бронзавыя, прызматычныя, дробны бісер), лунніцы, крыжыкі. У этнагр. аддзеле прадметы хатняга ўжытку, прылады працы і с.-г. інвентар 19— пач. 20 ст. (кросны, жорны, сукала, калаўроты, цуркі, бёрды, абрусы, ручнікі, хамут, ступа, таўкач, начоўкі, канаплица, вілкі, прасы, качалкі для бялізны, талеркі, самавар), адзенне і абутак (кашулі, андарак, лапці) і інш. Дэманструюцца рэчы, зробленыя студэнтамі ці іх бацькамі (макрамэ, вышытыя салфеткі, кошыкі, падковы і інш.). *У. У. Багамольнікаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ** (грэч. archaios старажытны + lógos слова, вучэнне) навука, якая вывучае гісторыю грамадства па матэрыяльных рэштках жыццядзейнасці людзей. Вывучэнне дапісьменнай гісторыі чалавецтва грунтуецца на даследаванні археалагічных помнікаў; са з'яўленнем пісьменнасці дапаўняецца пісьмовымі крыніцамі і этнаграфічнымі данымі. На падставе вывучэння матэрыяльных рэшткаў даказана існаванне трох стадый развіцця чалавецтва — каменны, бронзавы, жалезны вякі. З дапамогай параўнаўча-тыпалагічных даследаванняў рэканструіруюцца стараж. звычаі, павер'і, у шэрагу выпадкаў — дзяржаўны лад. Падабенства і паралелі паміж археалагічным і этнагр. матэрыялам упершыню выкарыстаў у 2-й пал. 19 ст.

рус. географ і антраполаг Д. М. Анучын. Тэрмін «А.» ў значэнні «навука пра старажытнасць» упершыню ўжыў Платон (5—4 ст. да н. э.). А. ў сучасным разуменні ўзнікла ў 15—16 ст. На тэр. Беларусі ў канцы 18 — пач. 19 ст. праводзіліся раскопкі пераважна курганоў, у 1920—30 г.— таксама стаянак і гарадзішчаў. Пачынальнікамі бел. А. былі К. П. і Я. П. Тышкевічы; значны ўклад унеслі таксама З. Я. Даленга-Хадакоўскі, Т. Нарбут, А.-Г. К. Кіркор, У. З. Завітневіч, Ф. В. Пакроўскі і інш.; пачынальнікі бел. сав. А.— А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч. Планамерныя археалагічныя даследаванні пачаліся пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Створаная ў 1921 навукова-тэрміналагічная камісія пры Наркамаце асветы БССР пачала планамерны ўлік і выяўленне помнікаў А. У 1922 яе функцыі перададзены Інбелкульту, дзе ў 1925 створана гісторыка-археалагічная камісія. У 1927 адкрыта кафедра А., якая ў 1930 пад назвай Археалагічнай камісіі ўвайшла ў склад Ін-та гісторыі АН БССР (з 1932 секцыя А.). З 1944 у Ін-це гісторыі АН БССР працаваў сектар А., з 1980 — аддзел А. (уключаў тры сектары), з 1986 — Аб'яднанне аддзелаў А. (уваходзяць тры аддзелы: першабытнай А., сярэдневяковай А. і археалагічных даследаванняў зон новабудоўляў). Археалагічныя раскопкі праводзяць таксама навукова-вытворчае аб'яднанне «Белрэстаўрацыя», БДУ, Гродзенскі і Гомельскі дзярж. ун-ты, Магілёўскі педагагічны ін-т.

А. падраздзяляюць на палявую, тэарэтычную, А. архітэктуры, падводную (гідраархеалогію) і інш. Сярод археалагічных помнікаў вылучаюцца паселішчы (стаянкі, паселішчы, селішчы, гарадзішчы), пахаванні (бескурганныя могільнікі, курганы, каменныя магілы) і культавыя (свяцілішчы, ідалы, камяні, крыніцы). З многімі помнікамі звязаны шматлікія паданні і легенды. Так, з гарадзішчамі — пра закапаныя скарбы, пра царкву, якая нібыта праваліпася, затоплены горад, пра гарадзішчы, насыпаныя ботамі ці шапкамі рознымі чужынцамі (французамі, шведамі, татарамі, туркамі). З курганамі звязаны паданні пра пахаваных волатаў-асілкаў, месцы барацьбы з ворагамі, пра сустрэчы ў гэтых месцах вяселляў і боек паміж імі. У мінулым было пашырана шанаванне курганоў (на іх клалі ежу і кветкі, у час святаў вадзілі карагоды), вядомых пад назвамі *валатоўкі*. Са свяцілішчамі (месцамі адпраўлення стараж. культаў) звязаны назвы Ярылаўка, Дзявочая Гара і інш. Вядомы культавыя валуны — камяні-следавікі, камяні-«краўцы», «чортавы камяні», акамянелыя вяселлі ці акамянелыя людзі, пакараныя за працу ў свята. *Л. У. Дучыц.*

**АРШЫ́Н**, мера даўжыні. У 19 — пач. 20 ст. (да ўвядзення метрычнай сістэмы), на Беларусі ўжываўся рускі А., роўны 0,71 м.

**АРЭАЛО́ГІЯ**, вучэнне аб арэалах, іх структуры і размяшчэнні, шляхах утварэння, развіцця і распаду. Арэалагічны падыход да фактаў, якія могуць мець тэрытарыяльную праекцыю пры картаграфаванні, прымяняецца ў геаграфіі, кліматалогіі, батаніцы, археалогіі і г. д. А. ў этнаграфіі і мовазнаўстве — напрамак, які вывучае геагр. распаўсюджанне этнагр. і дыялектных з'яў з мэтай устанаўлення сувязі паміж імі, што мае істотнае значэнне для раскрыцця іх паходжання і характару. Натуральная аснова такой сувязі — адзінства элементаў нар. культуры і іх назваў на пэўным этапе этнічнай гісторыі, якое з цягам часу можа парушацца. Захаванне стараж. рыс у этнагр. або моўнай характарыстыцы пэўных з'яў дазваляе правесці рэканструкцыю выходнага стану адзінага этнамоўнага комплексу і яго праарэала, што з'яўляецца асноўнай задачай *этналінгвістыкі*.

Найбольшае пашырэнне арэалагічны падыход атрымаў у мовазнаўстве. Арэальная лінгвістыка даследуе арэалы моўных з'яў, іх тыпы і ўзаемадзеянне. Асноўнымі паняццямі А. ў мовазнаўстве, акрамя арэала, з'яўляецца цэнтр і перыферыя, якія адлюстроўваюць элементарную арэальную структуру, уласцівую кожнаму тэрытарыяльнаму ўтварэнню (арэалу, дыялекту, мове, моўнаму саюзу і г. д.). Пры гэтым цэнтр неабавязкова супадае з цэнтрам геаграфічным. Напр., цэнтр (або цэнтр. зона) арэальнай структуры бел. мовы лакалізуецца ў вузкай паласе гаворак ад Старобіна да Глыбокага, дзе накладваюцца адна на адну ўсе асноўныя дыялектныя зоны (гл. карту). Арэальная структура бел. мовы не супадае з яе дыялектным чляненнем (гл. ў арт. *Дыялектная мова*). А. ў мовазнаўстве аперыруе таксама паняццямі «архаізм» і «інавацыя», якія дазваляюць вывучаць дынаміку арэальных працэсаў на пэўнай тэрыторыі (узаемадзеянне арэалаў інавацыйных і архаічных з'яў, напрамак распаўсюджання інавацый і г. д.). Дасягненнем А. ў мовазнаўстве з'яўляецца палажэнне аб пераважна інавацыйным характары моўных з'яў у цэнтры і захаванні архаікі на перыферыі (М. Барталі). Першыя спробы прымянення прынцыпаў А. ў слав. этнаграфіі зрабілі М. Гавацы і Б. Братаніч, якія выдзялілі на слав. Поўдні цэнтр. і латэральную зоны, супрацьпастаўленыя па захаванні архаічных элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, а таксама адпаведнай наменклатуры (тэрмінаў). Далейшае развіццё А. ў этнаграфіі і мовазнаўстве звязана з працамі рускага сав. вучонага М. І. Талстога і інш. даследчыкаў, якія спрабуюць выявіць сувязь паміж ізаглосамі (акрэсліваюць арэал пэўнай моўнай з'явы), ізапраграмамі (акрэсліваюць арэал пэўнага элемента матэрыяльнай культуры) і ізадоксамі (вылучаюць




* Заўвага. Межы дыялентных зон беларускай мовы паназаны паводле кн. „Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак" (Карты ізаглос) Мінск. 1969. карты № 76–80

Аўтар Г.А.Цыхун

арэал пэўнага элемента духоўнай культуры), у прыватнасці пры складанні Палескага этналінгвістычнага атласа.
*Г. А. Цыхун.*

**АРЭ́ЛІ,** качэлі, гушкалка, прыстасаванне, на якім гушкаюцца для забавы. Звычайна рабілі ў месцах, дзе збіралася моладзь у час адпачынку і свят. На ўкапаных у зямлю слупах, часамі з падкосамі, мацавалі папярэчку, да якой на жэрдках, металічных кольцах, скураных рамянях ці вяроўках падвешвалі шырокую дошку; 1—2 ці болей чалавек садзіліся ці станавіліся на яе і гушкаліся. У наш час робяць невялікія А. для дзяцей.

**АСА́ДА,** 1) дзяржанне ў прыладах працы (малатку, долаце, гэблі і інш.). 2) Сядзіба *асадніка.* 3) Тое, што і *шуфляда.* 4) Асноўная павіннасць *асадных сялян.*

**АСА́ДНІКІ,** ваенныя і цывільныя каланісты, якіх урад буржуазнай Польшчы перасяляў з цэнтральных раёнаў краіны ў Зах. Беларусь і Зах. Украіну з мэтай умацаваць там сваю сацыяльную і нацыянальную апору. *Асадніцтва* пачалося на аснове закона ад 17.12.1920 аб надзяленні зямельнымі ўчасткамі легіянераў, якія «асабліва вызначыліся» ў вайне супраць Сав. Расіі. На льготных умовах або дарма ўрад даваў А. зямельныя ўчасткі (асады — адсюль і назва) па 15—45 га, значныя крэдыты на іх асваенне. На працягу 1921—39 у Зах. Беларусь і на Валынь пераселена каля 9 тыс. А. Насялілі іх пераважна ўздоўж сав.-польскай граніцы. Амаль усе яны падтрымлівалі ўрадавую палітыку паланізацыі бел. і укр. насельніцтва, у барацьбе з рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухам працоўных выконвалі паліцэйскія функцыі, уваходзілі ў Польскі саюз ускраін, эксплуатавалі мясцовых сялян-батракоў.
*І. П. Хаўратовіч.*

**АСА́ДНІЦТВА,** палітыка насаджэння польскім буржуазным урадам у Зах. Беларусі і Зах. Украіне ваенных і цывільных каланістаў, якім на льготных умовах або дарма даваліся буйныя зямельныя ўчасткі — асады. Гл. ў арт. *Асаднікі.*

**АСА́ДНЫЯ СЯЛЯ́НЕ,** катэгорыя феадальна-залежных сялян у 16 ст., асноўнай павіннасцю якіх была асада — грашовы аброк за карыстанне зямлёй. Плацяжы залежалі ад якасці глебы. Паводле «Уставы на валокі» 1557 за валоку добрай зямлі плацілі 106 грошай, зусім дрэннай — 66. Грашовая павіннасць не выключала і плацяжоў натурай (працавалі ў гаспадарцы землеўласніка). А. с. пераважалі ў дзярж. уладаннях і складалі значную колькасць у маёнтках буйных феадалаў. З развіццём фальваркавай гаспадаркі (гл. *Фальварак*) доля А. с. змяншалася. На У Беларусі, дзе фальваркаў было мала, яны складалі большасць сялянства. Асада паступова злілася з чыншам, з канца 16 ст. А. с. называліся *чыншавымі сялянамі.*



Арэлі.



Асець. Чарцёж (папярочны і падоўжны разрэзы).

**АСВЕ́Р,** 1) вага ў студні; *журавель* калодзежа. 2) Рычаг для падымання бярвення.

**АСЕ́ЛІШЧА,** комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў разам з дваром, агародам і садам; тое, што і *сядзіба.*

**АСЕ́ЦЬ,** восець, старадаўняя гаспадарчая пабудова для прасушкі збажыны, канапель, ільну. Лакальная назва асетка. Канструкцыйна больш складаная, чым *ёўня.* Найчасцей А. ставілі ўнутры гумна ля тарцовай сцяны, процілеглай варотам, зрэдку — за гумном. Звычайна гэта квадратнае ў плане 2-яруснае збудаванне з імшанымі сценамі. Упоравень з падлогай рабілася квадратная адтуліна, праз якую выграбалася зерне. Замест дзвярэй на ўзроўні 7—8-га вянкоў рабілася вялікая адтуліна, праз якую падавалі снапы і залазілі ў А. На цапніку, што размяшчаліся на 2-м ярусе, ставілі снапы для сушкі. У глінабітнай падлозе А. выкопвалася яма глыбінёй да 2 метраў, у якой знаходзілася печ, абкладзеная каменнем. Печ мела некалькі люхтаў і чарэннем выходзіла ў 1-ы ярус. Нагрэтае паветра трапляла ў верхняе аддзяленне, дзе знаходзілася збажына. У час сушкі абедзьве адтуліны шчыльна зачыняліся.

А. была больш надзейная ў супрацьпажарных адносінах, таму што чалеснікі (уваходная выемка ў печы) былі ізаляваны ад унутранай часткі пабудовы. Нягледзячы на відавочную перавагу, А. не атрымала паўсюднага пашырэння на Беларусі. Найбольш яна была пашырана ў Магілёўскай, Віцебскай, на Пн Гомельскай і часткова Мінскай абласцях.
*У. С. Гуркоў.*

**АСІ́ЛАК,** герой многіх чарадзейных беларускіх казак, легенд, паданняў. Валодае незвычайнай сілай: вырывае з каранямі дрэвы, кідае каменныя глыбы, мае падчас «чортавы рэбры». А. выступае нар. заступнікам, змагаецца супраць прыгнёту і несправядлівасці. Вобраз А. пададзены, напр., у казках пра Кацігарошка, Медведзюка, Ілью Мурамца, Кавалявернідуба. Казачны А. блізкі эпічнаму *волату.*

**АСІМІЛЯ́ЦЫЯ** (ад лац. assimilatio), від аб'яднальных *этнічных працэсаў,* якія суправаджаюцца засваеннем адным народам мовы, культуры і інш. *этнічных прыкмет* другога народа (сацыяльна больш развітага ці дэмаграфічна пераважаючага) да поўнага зліцця з ім. Працэс А. ажыццяўляецца на розных узроўнях: антрапалагічным,

сацыяльным, культурным, моўным і інш., вынікам якога з'яўляецца змена *этнічнай самасвядомасці* асімілюванага этнасу. Натуральная А. ўзнікае пры непасрэдных кантактах разнародных этнічных груп, абумоўленых агульнасцю іх сацыяльнага, гаспадарчага і культурнага жыцця, шырокім распаўсюджаннем міжэтнічных шлюбаў. Прымусовая А., у адрозненне ад натуральнай, ажыццяўляецца ў форме ўрадавых мерапрыемстваў, накіраваных на штучнае паскарэнне А. малых народаў. Працэсы А. былі характэрны і для этнічнай гісторыі беларусаў. У перыяд феадалізму, напр., беларусамі былі асіміляваны нешматлікія групы рускіх, украінцаў, літоўцаў, латышоў, палякаў, татар і інш. У той жа час пэўныя сацыяльныя групы бел. насельніцтва (шляхта, гараджане) часткова былі асіміляваны палякамі. Палітыку прымусовай А. ў адносінах да беларусаў праводзіў царскі ўрад (асабліва пасля паўстанняў у Польшчы, на Беларусі і ў Літве 1830—31 і 1863—64).

*І. У. Чаквін.*



Гумно з **асеццю** ля тарцовай сцяны. План.

**АСІНАЎКА**, выдзеўбаная са ствала асіны *лодка*. Лакальная назва асоўка.

**АСМОЛ**, хваёвая сыравіна для *смалакурэння*. Лепшым лічыўся спелы пнёвы А.— карчы старых хвой, што праляжалі ў зямлі 5—6 гадоў. Выкарыстоўвалі і менш якасны стваловы А.— ніжнюю частку сасны (калода даўжынёй 1 м і больш). Нарыхтоўка А. была промыслам сялян лясных вёсак. Нарыхтоўвалі яго вясной і ўвосень, у вольны ад палявых работ час. Пні карчавалі з дапамогай жалезнай (на Палессі — драўлянай, абабітай жалезам) лапаты, сякеры і доўгага бервяна — лагі. Прасушаныя карчы расколвалі, збіралі ў кучы, потым звозілі ў смалярню, дзе складвалі ў штабелі — шуркі (1,5 м³). У наш час А. карчуюць узрыўчаткай.

*Г. І. Буракоўская.*

**АСНАЧЫ**, назва рабочых на суднах, а таксама плытагонаў.

**АСНОВА**, падоўжныя ніткі тканіны. У хатнім ткацтве найбольш пашырана А. з ільняной пражы. Для дэкаратыўных ручнікоў, настольнікаў, навалачак, посцілак, жаночых кашуль, намітак выкарыстоўвалі тонкую кужэльную пражу. Для вырабу верхняга і мужчынскага паяснога адзення, тканін утылітарнага прызначэння (радзюжак, ручнікоў-уціральнікаў і інш.) А. служыла зрэбная, больш грубая (абдзіркавая) пража. Суконныя ніткі ў якасці А. выкарыстоўвалі рэдка — звычайна для вырабу андаракоў і сукна. У сучасным ткацтве для А. бяруць розныя ніткі фабрычнай вытворчасці.

*Г. М. Курыловіч.*



Бортнае дрэва з **астровай**.

**АСОЧНІКІ**, сяляне-слугі, галоўным абавязкам якіх была ахова пушчаў вялікага князя ці буйных феадалаў, нагляд за звярынымі пераходамі і оступамі, падрыхтоўка і ўдзел у паляванні, нарыхтоўка для панскага двара пэўнай колькасці дзічыны. Вядомы з 14 ст. Жылі каля пушчаў у асобных вёсках і на хутарах, вызваляліся ад паншчыны і грашовых падаткаў, аднак удзельнічалі ў ваенных паходах. За службу атрымоўвалі 2 валокі зямлі, якія не абкладваліся падаткамі. З заняпадам паляўніцтва, масавай высечкай лесу, развіццём лясных промыслаў і фальварковай гаспадаркі эканам. становішча А. пагоршала. Колькасць іх скарацілася, зямельны надзел зменшыўся спачатку да 1, а паводле «Ардынацыі каралеўскіх пушчаў» 1641 да 0,5 валокі. У 18 ст. змяніліся абавязкі А.: іх паступова пераводзілі на чынш, за зямельны надзел яны павінны былі выплачваць дзякло (прадуктовы падатак), акрамя аховы лясоў, рамантавалі дарогі і масты ў пушчах, перавозілі пошту, выраблялі і здавалі вугаль, дзёгаць.

*С. Ф. Цярохін.*

**АСТРОВА**, яліна з абсечанымі не да канца галінамі (на месцы абламаных сукоў высякалі прыступкі), па якіх узлазілі на дрэва для догляду пчол. Лакальныя назвы астрога, астроўкі. Звычайна ссякалі бліжэйшую яліну так, каб яна падпірала дрэва з *борцю* або датыкалася да краю *падкура* з калодамі. У наш час сустракаецца рэдка.

**АСТРОГ**, стараж. абарончая канструкцыя ў выглядзе суцэльнай сцяны з вертыкальна або нахілена ўкапаных у зямлю завостраных зверху бярвёнаў вакол замка, гарадзішча, пасада. На Беларусі вядомы з часоў жалезнага веку, пашыраны ў абарончым будаўніцтве 9—14 ст. У драўляных замках 16—18 ст. выцеснены *гароднямі* і *тарасамі*, але выкарыстоўваліся на менш важных участках абароны і пры неабходнасці хутка збудаваць абарончую сцяну. Вядомы ў замках Віцебска, Полацка, Мазыра, Мінска, Рагачова і інш., таксама як агараджальная канструкцыя феадальных сядзіб (Дастоева Іванаўскага р-на). Замкавыя А. мелі ў верхніх частках баявыя галерэі з абламамі і стрэшкамі з драніцы або гонты ў завяршэнні. А. называлася і ўмацаваная частка горада, абнесеная такой сцяной (у Мазыры, Крычаве). А. феадальных сядзіб рабіліся ў выглядзе простага частаколу без баявых галерэй. Такімі частаколамі часам акружалі вёскі, мястэчкі.

*Ю. А. Якімовіч.*

**АСТРОЎКІ**, тып *азярода*, у якім вертыкальна ці нахілена пастаўлены адна да адной жэрдкі з абрубкамі сукоў. Лакальная назва астраўе. Служыць для дасушвання на сонцы і ветры збажыны, сена, бульбоўніку і інш. Пашыраны ў цэнтр. раёнах Беларусі.

**АСЬМІНА**, даўняя мера сыпкіх рэчываў на Беларусі. 1 А.=$^1/_8$ *бочкі віленскай*=18 малых *гарцаў*, ≈51 л.

**АСЯЛОК**, дробназярністы тачыльны камень; тое, што і *брусок*.

**АСЯНІНЫ**, дзень памінання продкаў, асенція *дзяды*. Назва А. пашырана пераважна на Пн Беларусі. Святкаваліся праз тры тыдні пасля *пакровау*. Шчодрасць абрадавага стала, забяспечаная багатай парой года, вылучала А. як багатыя дзяды. Для ўрачыстай памінальнай вячэры спецыяльна калолі парсюка ці рэзалі цялушку або авечку. Падрыхтоўка да А. уключала абавязковую ўборку падвор'я (мужчыны складалі на месца зімоўкі прылады працы, парадкавалі дрывотню, падмяталі двор) і хаты (жанкі мылі сталы і лавы, бялілі, калі была ў тым патрэба, сцены). Усе мыліся. Лічылася, што чысціня і па-

радак будуць уцехай продкам, душы якіх наведаюць колішнюю гасподу, і гэта паслужыць зарукай іх ласкі і спагады жывым, паспрыяе ім у жыцці. На памінальную вячэру клікалі сваякоў, суседзяў. Гаспадар, запаліўшы свечку, звяртаўся да памерлых: «Прыходзьце да нас на асяніны ўсе тыя, што займалі гэту сялібу!». Падавалі звычайна няцотны лік страў: у беднейшых сем'ях — 7, у багацейшых, заможных — 11 і больш. Перад тым як адведаць кожнай абрадавай стравы (яны ўключалі *куццю*, кіслую капусту з ялавічынай, *юшку*, посныя стравы), лыжку яе адкладвалі ў асобную пасудзіну і ставілі на падаконнік — для душ памерлых. У застоллі панавала стрыманая, паважная атмасфера: абменьваліся толькі скупымі словамі, фразамі. Скрып брамкі, звон шыбы, рэзкі попум апошніх лістоў на дрэве за акном успрымаліся як прысутнасць нябачных продкаў. А.— старадаўняя, язычніцкага паходжання, урачыстасць, сведчанне не столькі прымхлівасці, колькі высокай маральнасці земляробаў з іх сталым ушанаваннем памяці сваіх папярэднікаў.
*А. С. Ліс.*

**АТА́ВА,** трава, што адрасла ў той жа год на пакошы.

**А́ТЛАС ГІСТО́РЫКА-ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ (ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ),** сістэматызаваны збор гісторыка-этнагр. (этнагр.) карт, складзеных паводле спецыяльнай праграмы. Па этнатэрытарыяльнаму ахопу падзяляюцца на сусветныя, рэгіянальныя і нацыянальныя; па змесце — на тэматычныя, або галіновыя (напр., нар. сельскагаспадарчай тэхнікі, жылля), і комплексныя, дзе даецца характарыстыка этнасаў, нар. культуры па некалькіх адзнаках. Выпускаюць атласы ў выглядзе альбома і незброшураванымі ў спецыяльным футляры; у асобнай кнізе змяшчаюць тлумачальныя тэксты, малюнкі, табліцы, паказальнікі і іншы навукова-даведачны матэрыял. Паводле паходжання А. г.-э. цесна звязаны з больш ранніMі атласамі геаграфічнымі, у склад якіх часта ўваходзілі карты этнагр. характару. Геагр. атласы, што даюць важныя этнагр. звесткі пра рассяленне народаў, гіст. правінцыі ў Еўропе, мясцовую тапаніміку, у т. л. на тэр. сучаснай Беларусі, атрымалі шырокае распаўсюджанне з 15 ст.

Першы спецыяльны А. г.-э., у якім ёсць каштоўныя звесткі пра этнічны склад і размяшчэнне насельніцтва Беларусі,— «Этнаграфічны атлас заходнярускіх губерняў і суседніх абласцей» Р. Ф. Эркерта (1863). Ён складаецца з 6 карт. Адна з іх дае агульны этнагр. агляд і паказвае ўзаемнае размяшчэнне народаў на тэр. Беларусі, Польшчы, часткы Украіны і Прыбалтыкі. Астатнія карты прысвечаны рассяленню адпаведна палякаў, беларусаў і ўкраінцаў (абазначаны на карце пад агульнай назвай рускія), немцаў, літоўцаў, латышоў, яўрэяў. Кожная з іх метадам каляровага фону паказвае працэнтныя адносіны прадстаўнікоў асноўнага этнасу да ўсяго насельніцтва па розных паветах і губернях. Тэксты матэрыял выдадзены асобнай кнігай «Погляд на гісторыю і этнаграфію заходніх губерняў Расіі» (1864). Разглядаючы рэгіянальныя гісторыка-культурныя асаблівасці, аўтар падзяляў тэр. Беларусі на тры часткі: усходнюю (на ўсход ад р. Бярэзіны), заходнюю і Падляшша. Бел. насельніцтва гэтых рэгіёнаў утварала, на яго думку, тры этнагр. групы: сапраўдныя беларусы, заходнія беларусы, ці чарнарусы, і падляшане. Статыстычныя матэрыялы, на падставе якіх былі складзены карты першага А. г.-э., няпоўныя і не заўсёды адлюстроўвалі рэальную этнічную сітуацыю. У прыватнасці, мноства беларусаў-католікаў было залічана паводле канфесіянальнага прынцыпу да палякаў. Той жа падыход да этнічнага вызначэння беларусаў захаваўся і ў «Атласе народанаселения Западно-Русского края по вероисповеданиям» (1864), у якім змешчана 10 карт, складзеных А. Ф. Рыціхам. З развіццём этнічнай картаграфіі сталі складацца атласы, прысвечаныя розным з'явам традыцыйна-бытавой культуры і звязанай з імі нар. тэрміналогіі. Адным з першых атласную методыку даследавання культуры славян, у т. л. беларусаў, выкарыстаў польскі этнограф К. Машынскі ў сваіх працах «Нататкі пра славянскую тапаграфічную і фізіяграфічную тэрміналогію, заснаваныя пераважна на беларуска-палескім матэрыяле» (1921) і «Народная культура славян» (ч. 1, 1929).

У СССР работа над А. г.-э. распачалася пасля Вял. Айч. вайны. У 1964 выдадзены «Атлас народаў свету», у якім адлюстраваны этнічны склад насельніцтва свету (вылучана 1600 народаў паводле лінгвістычных адзнак) і шчыльнасць рассялення. У дадатку прыводзіцца колькасны склад насельніцтва, характарызуецца яго рассяленне, міграцыя, расавы і этнічны склад, мова, рэлігія. У сав. этнагр. навуцы найбольш пашыраны рэгіянальныя гісторыка-этнагр. атласы, створаныя для абагульнення звестак па гісторыі матэрыяльнай культуры, гал. чынам с.-г. тэхніцы, земляробству, пасяленнях, жыллі і адзенні народаў СССР. Ім належыць важная роля ў распрацоўцы пытанняў параўнальна-тыпалагічнага вывучэння нар. культуры, заканамернасцей яе развіцця, фарміравання агульных і спецыфічных рыс у асобных этнасаў. Апублікаваны гісторыка-этнагр. атласы: Сібіры (1961), «Рускія» (ч. 1—2, 1967—70), Прыбалтыкі (т. 1, Земляробства, 1985; т. 2, Адзенне, 1986), у якіх на падставе камплектаў карт характарызуюцца асобныя кампаненты матэрыяльнай культуры ў гіст. развіцці. У 1965—70 у рамках усесаюзнай комплекснай праблемы «Гісторыка-этнаграфічны атлас народаў СССР» вялася работа над рэгіянальным атласам Украіны, Беларусі і Малдавіі (у БССР Ін-там мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР). Даследаваліся тры галіны матэрыяльнай культуры: нар. жыллё, с.-г. тэхніка, адзенне. Этнографамі абследавана паводле геагр. сеткі ўся тэр. Беларусі (больш за 140 населеных пунктаў). У выніку абагульнення палявых матэрыялаў, літаратурных, архіўных і музейных крыніц складзены тры тэматычныя камплекты карт (120 шт.). Кожны з іх дае шматлікія звесткі пра даследаваныя галіны матэрыяльнай культуры Беларусі ад сярэдзіны 19 да пач. 20 ст. і ў 1960-я г. На падставе гэтых матэрыялаў падрыхтаваны кнігі «Беларускае народнае жыллё» (1973), «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў» (1974), «Беларускае народнае адзенне» (1975). Вядзецца работа па абагульненню рэгіянальных матэрыялаў і падрыхтоўцы да выдання гіст.-этнагр. атласа Украіны, Беларусі і Малдавіі. *С. А. Мілючэнкаў, В. С. Цітоў.*

**А́ТЛАС ЛІНГВІСТЫ́ЧНЫ,** сістэматызаваны збор лінгвістычных карт, якія адлюстроўваюць этнатэрытарыяльнае пашырэнне суадносных моўных (дыялектных) з'яў ці асаблівасцей; адзін з найбольш дасканалых спосабаў навуковага адлюстравання моўнай рэчаіснасці ў межах ахопленай ім этнагеагр. прасторы. Для складання лінгвістычных карт выкарыстоўваюцца звесткі, сабраныя паводле спецыяльнага апытальніка ў населеных пунктах апорнай сеткі А. л. на вызначанай для яго тэрыторыі (густата сеткі залежыць ад задач А. л. і тэрытарыяльнай моўнай дыферэнцыяцыі насельніцтва). Паводле спосабу адлюстравання на картах моўных з'яў адрозніваюць простае картаграфаванне (паказваецца пашырэнне саміх моўных з'яў ці асаблівасцей) і аналітычнае, або інтэрпрэтацыйнае (адлюстроўваюцца адрозненні рознага структурнага, семантычнага ці інш. характару паміж моўнымі з'явамі). А. л. змяшчаюць звычайна значную колькасць карт, якія ў сукупнасці раскрываюць і заканамернасці этнатэрытарыяльнай сістэматызацыі і размежавання моўных з'яў або іх адрозненняў, іх этнатэрытарыяльныя адносіны. На неабходнасць складання сістэмы лінгвістычных карт па пашырэнню найважнейшых з'яў бел. мовы для вырашэння пытанняў пра этнамоўную тэрыторыю беларусаў, а таксама пра тэрытарыяльную групоўку ўнутры яе бел. мясцовых гаворак указваў Я. Ф. Карскі (Белорусы: Введение в изучение языка и народной словесности. Вильна, 1904. С. 198). Грунтоўны праект першага А. л., накіраванага на вырашэнне гэтых праблем, распрацаваны ў сярэдзіне 20-х г. П. А. Бузуком («Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Ч. 1. Фанетыка і марфалогія, вып. 1. Гаворкі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Вялікарусі ў першай чвэрці XX в.», 1928).

адносінам паміж гаворкамі зах. часткі бел. і ўкр. Палесся і іх групоўцы прысвечаны выдадзены ў Польшчы рэгіянальны А. «Studia porównawcze nad geografią wyrazów (Polesie — Mazowsze)» Ю. Тарнацкага [«Параўнальныя даследаванні геаграфіі слоў (Палессе — Мазоўша)», 1939]. Ён уключае карты, якія адлюстроўваюць пашырэнне ў гаворках суадносных па значэнню мясцовых слоў з розных сфер нар. лексічнай намінацыі (будаўніцтва, адзенне, прылады працы, рэчы, ежа, расліны, жывёлы і інш.). Фундаментальная лінгвагеаграфічная праца бел. мовазнаўцаў — «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963; у комплексе з працай «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак», 1968, 1969) адзначана Дзярж. прэміяй СССР 1971. На 338 лінгвістычных картах А. л. паказана пашырэнне ў мясцовых гаворках Беларусі ўсіх іх істотных асаблівасцей фанетыкі, граматычнага ладу і часткова слоўніка. У наступнай абагульняючай працы комплексу — тэрытарыяльныя адносіны паміж абласцямі мясцовых гаворак і іх групоўка. У 1984 на Украіне выдадзены «Атлас украінскай мовы. Т. 1. Палессе, Сярэдняе Падняпроўе і сумежныя землі», які раскрывае адносіны паміж суседнімі гаворкамі Беларусі і Украіны. У ПНР выдадзены 1-ы том рэгіянальнага А. «Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny» («Атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны», 1980), на картах якога адлюстравана тэрытарыяльнае размяшчэнне і асаблівасці бел. гаворак, пашыраных у гэтым рэгіёне. Праблемам этнатэрытарыяльных адносін паміж усімі існуючымі слав. мовамі (дыялектамі, гаворкамі) прысвечаны Агульнаслав. лінгвістычны атлас (падрыхтаваны 2 выпускі), у якім прадстаўлены мясцовыя гаворкі Беларусі з 73 населеных пунктаў. «Atlas Linguarum Europae» («Лінгвістычны атлас Еўропы». Т. 1, Вып. 1—2, 1983—86) прысвечаны праблемам моўнага ландшафту еўрапейскага кантынента, фарміравання моў, іх стараж. і пазнейшых узаемасувязей (на картах прадстаўлены гаворкі 27 населеных пунктаў БССР). Бел. мовазнаўцы-дыялектолагі рыхтуюць да выдання 5-томны А. л. па слоўніку мясцовых гаворак Беларусі. Складзена больш за 2000 карт, якія адлюстроўваюць разнастайнасць лексічнай намінацыі ў бел. мясцовых гаворках прадметаў і з'яў з розных сфер матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, тэрытарыяльныя адносіны паміж адпаведнымі па значэнню мясцовымі словамі па свайму паходжанню, будове, словаўтваральных і фанетычных элементах і інш.
*А. А. Крывіцкі.*

**АТО́СЫ**, канструкцыйны элемент у сістэме *запрэжкі*, што служыць для рэгулявання разводу аглабель па шырыні дугі. Лакальная назва цягі. Уяўляюць сабой цяжы (расцяжкі), якія злучаюць верхнія канцы аглабель з канцамі пярэдняй восі ў вазах. Жалезныя А. пашыраны з сярэдзіны 19 ст. Да пачатку 20 ст. А. ў рабочых вазах рабілі з пяньковых вяровак (для трываласці іх часам змазвалі дзёгцем), на З Беларусі — часта з кручаных маладых дрэўцаў дубу, бярозы («клібіны»).
*В. С. Цітоў.*

**«АТЭНЭ́УМ»** («Athenaeum»), часопіс на польскай мове, які выдаваў у 1841—51 у Вільні польскі пісьменнік Ю. І. Крашэўскі. Асвятляў праблемы гісторыі, культуры, грамадска-паліт. жыцця, гал. чынам зямель Вялікага кн. Літоўскага — Беларусі, Літвы. Найбольшы грамадскі рэзананс меў у 1842—48, калі на яго старонках змяшчаліся матэрыялы, аўтары якіх выступалі супраць феадальных парадкаў, за вызваленне сялян ад прыгону («Аб польскім селяніне» А. Козьмяна, «Гісторыя Саўкі» Крашэўскага). Друкаваў фальклорныя і этнагр. матэрыялы, у т. л. з Беларусі: «Народныя песні, сабраныя на Піншчыне і перакладзеныя Р. Зянькевічам» (1847, т. 4), «Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні. Бельскі павет» І. Ярашэвіча (1848, т. 6, шмат звестак пра заняткі, жыллё, адзенне, ежу, вуснапаэтычную творчасць беларусаў) і інш.
*К. А. Цвірка.*

**«АТЭНЭ́УМ ВІЛЕ́НЬСКЕ»** («Athenaeum Wileńskie»), гістарычны часопіс буржуазнага кірунку, орган Т-ва аматараў навук. Выдаваўся ў 1923—39 у Вільні на польскай мове. Перыядычнасць — ад 4 нумароў у год да аднаго ў 2 гады. У ім асвятлялася гісторыя зямель Вял. кн. Літоўскага, публікаваліся дакументальныя матэрыялы, падрабязная, часта анатаваная бібліяграфія даследаванняў па гісторыі Вял. кн. Літоўскага. Змяшчаны даследаванні пра мінулае Беларусі і гісторыю культуры бел. народа, матэрыялы па гісторыі развіцця рамёстваў: «Майстэрства выпрабу гадзіннікаў у Вільні ў XVI і XVII стст.» М. Браншэйна (1923), «Віленская медальерная школа ў XVI і XVII стст.» М. Гумоўскага (1929), «Аб справе пра нацыянальны і рэлігійны склад цэха ліцейшчыкаў у Вільні» Ф. Доўбека і «Аб справе пра нацыянальны склад віленскіх цэхаў у XVI—XVIII ст.» М. Лаўмянскай (абодва 1930), «Ганчарная тэхніка лепкі на тэрыторыі паўночнаўсходніх зямель Польшчы паводле матэрыялаў апошніх раскопак» У. Галубовіча, «Славянскія курганныя могільнікі каля вёскі Платава ў павеце і ваяводстве Навагрудскім» А. Галубовіч (абедзве 1938), «Тэорыя і практыка рускіх неўматычных спеваў на аснове традыцыі віленскіх стараверaў» Я. Кашмідэр (1935) і інш.
*І. Я. Яўжэнка.*

**АЎДАКЕ́Я**, прысвятак у *народным календары*, які часам лічылі першым днём вясны (1 сакавіка с. ст.). Называлі таксама Аўдакей, Яўдока. Царква прымеркавала да яго дзень хрысціянскай пакутніцы Еўдакіі. Меў некаторыя правілы, якія датычыліся ў асноўным жанчын — забаранялася прасці, дазвалялася толькі сукаць гатовыя ніткі, рэзаць што-небудзь можна было толькі авечымі нажніцамі. З дня А. ў некаторых мясцовасцях пачыналі *гуканне вясны*. Стан прыроды ў гэты дзень (сыход снегу, галалёд) адлюстраваны ў прымаўцы «на Яўдоку голы бокі». З днём А. былі звязаны шматлікія метэаралагічныя і гаспадарчыя прыкметы: калі на А. вол нап'ецца з-пад страхі, то вясна будзе цёплая; цёплы дзень А. абяцаў удалы сенакос, дажджлівы — ураджай жыта, марозны — пагражаў памарозіць грэчку ў час цвіцення, завіруха ў дзень А.— увесь год чакаўся халодны і неўраджайны.
*У. А Васілевіч.*

**АЎКШТА́ЙТЫ**, лакальная назва насельніцтва ўсх. і цэнтр. часткі Літоўскай ССР. Этымалогія назвы звязана з тапанімам Аўкштайтыя (ад літоўск. aũkštas, aũkštis высокі, вышыня). У пісьмовых крыніцах тэрмін «А.» упершыню сустракаецца ў Дузбургскай хроніцы пры апісанні падзей 1294—1300. Займаліся ворыўным земляробствам, жывёлагадоўляй. У эпоху сярэднявечча А. склалі ядро старажытналітоўскай народнасці і ў далейшым з жамайтамі (жмуддзю) і інш. балцкімі групамі Літвы кансалідаваліся ў адзіны літоўскі этнас.

Пад назвай А. звычайна разумелі ўласна *літоўцаў*, часам — *літвінаў*, якія жылі на землях Усх. Літвы. Распаўсюджанне назвы А. ў 19—20 ст. звязана з этнанімічнай дыферэнцыяцыяй паміж уласна літоўцамі (lietuvieši) і бел. літвінамі (асіміляваныя беларусамі ці палякамі балцкія групы насельніцтва). У складзе А. выдзяляюць лакальную групу дзукаў, якая характарызуецца асаблівасцямі мовы (дзеканнем) і этнагенетычнага паходжання. Цесныя міжэтнічныя кантакты паміж А. і беларусамі абумовілі блізкасць і падабенства іх матэрыяльнай і духоўнай культуры.
*І. У. Чаквін.*

**АЎЛА́С**, прысвятак у *народным календары*, які адзначалі з язычніцкіх часоў (свята *Вялеса;* 11 лютага с. ст.). Царква прымеркавала да яго дзень хрысціянскага пакутніка Уласа, які ў народзе лічыўся апекуном хатняй жывёлы. Таму А. называлі каровіным святам, не шануючы якое гаспадар меў небяспеку наклікаць на сваю жывёлу бяду. Каб цяляты раслі здаровыя, гаспадыні выпякалі на А. аладкі. У некаторых мясцовасцях А. спраўлялі як конскае свята. У гэты дзень коней лепш кармілі, зусім не працавалі на іх (але аб'язджалі маладых коней). А. часта супадаў з *масленіцай* — апошнім скаромным тыднем перад вялікім постам, адкуль і пайшла прыказка «на А. бяры каўшом масла».
*У. А. Васілевіч.*

**АЎСТЭ́РЫЯ** (італ. osteria), багаты заезны дом. Вядома з 16 ст. (Гродна і інш.). Вельмі пашырана з 18 ст.

(Глуск, Паставы і інш.). Размяшчалася звычайна ў цэнтры горада ці мястэчка, каля рынку. Будавалі з дрэва або каменю; у плане мела ў асноўным форму прамавугольніка. Акрамя пакояў, была зала з лавамі, размешчанымі паўкругам ля каміна (звычайна глінянага). Мела таксама хлебную печ. Іншы раз да А. прыбудоўвалі стайню.

**АЎЧЫ́ННІКІ**, рамеснікі, якія апрацоўваюць аўчыны і шкуркі пушных звяроў; тое, што і *кушняры*.

**АФІ́НСКІ (АФЕ́НЬСКІ) ГАЎРЫ́ДНІК**, *умоўная мова*, т. зв. ла́бараў — зборшчыкаў ахвяраванняў на будаўніцтва храмаў; тое, што і *выцірняцкі гаўрыднік*.

**АХВЯРАПРЫНАШЭ́ННЕ**, абрад задабрывання звышнатуральных сіл (духаў прыроды, духаў продкаў, багоў і інш.) прынясеннем ім дароў, у т. л. жывых істот. Узнікла ў перыяд зараджэння рэлігійных уяўленняў праіснаванне звышнатуральных сіл, якія нібыта маглі паўплываць на зыход палявання, ураджай, прыплод жывёлы, лёс людзей. Славяне задабрывалі духаў прыроды, памерлых родзічаў. У старажытнасці ўсх. славяне ў выпадку смерці князя забівалі і хавалі або спальвалі разам з ім яго жонку, нявольніц, коней, лічачы, што ўсё гэта спатрэбіцца яму ў замагільным жыцці. Простыя людзі ў труну з нябожчыкам клалі яго асабістыя рэчы (нож, крэсіва, пазней люльку з тытунём). У перыяд язычніцтва ахвяры прыносілі ў выглядзе ручнікоў, палатна, рытуальнай ежы да велізарных дрэў, незвычайных па форме камянёў, крыніц. З пашырэннем хрысціянства ў месцах язычніцкіх пакланенняў пачалі будаваць цэрквы, капліцы, а крыніцы, камяні, дрэвы аб'яўлялі святымі *прошчамі* і праводзілі каля іх богамаленні. У перыяд феадалізму і капіталізму царкоўнікі патрабавалі ад вернікаў усё больш шчодрых А. Варварскія формы А. богу людзей сустракаліся толькі сярод стараверау (прыхільнікі пратапопа Авакума спальвалі сябе). Рэшткі А. ў той ці іншай ступені захаваліся ў наш час у каталіцызме і праваслаўі (запальванне свечак і лампад, прынашэнне ў царкву ці касцёл вышытых сурвэтак, ручнікоў, палатна, грошай, вешанне вышытых ручнікоў, фартушкоў і інш. на крыжы ля дарог, на магілках, зрэдку ля «святых» прошчаў). *Л. І. Мінько.*

Ачэп будынка слупавой канструкцыі.

**АЧЭ́П**, 1) верхні вянец зруба, што служыць апорай для канструкцый страхі (даху) і на якім мацуюць бэлькі. Пры 2-схільным даху бярвёны А. падоўжнай сцяны робяць з выпускамі (кансолямі) для мацавання на іх крайніх *кроквау*. 2) Пояс гарызантальных элементаў сцяны ў *слупавых канструкцыях*. Рабілі з 1—3 вянкоў бярвёнаў ці брусоў. Ніжні А., у які ўрубалі *шулы*, забяспечваў роўную перадачу вагі будынка на зямлю. Верхні А. аб'ядноўваў шулы і служыў асновай для бэлек і канструкцый страхі. *С. А. Сергачоў.*

**АШЧЭ́П**, самалоўная нерухомая пастка на невялікіх пушных звяроў (куніц, норак, тхароў і інш.). Лакальная назва вошчап. Выраблялася з падручных матэрыялаў (бярвёнаў, плашак, жэрдак). З-за грувасткасці і вялікай вагі А. выкарыстоўвалася там, дзе быў зроблены (на звярыных пераходах ці ў месцах іх жыхарства, ля вадапояў). Асноўную частку А. складалі сімка, падпорны калок і шнурок. Пры дакрананні да сімкі ці прывязанай да яе прынады верхняе бервяно падала на ніжняе і забівала звера.




Ашчэп (агульны выгляд і план): 1 — шнурок; 2 — падпорны калок; 3 — сімка.




**БА́БА**, 1) матчына або бацькава маці. 2) Старая жанчына наогул. 3) Замужняя жанчына. 4) Тое, што і *бабка* (бабка-павітуха).

**БА́БА**, традыцыйнае прыстасаванне для падцягвання невада пры зімовай лоўлі рыбы. Мае выгляд кубла без дна з дзвюма крыжавінамі ўнутры. Насаджваецца на вось, вертыкальна ўстаноўленую на санях. Прыводзіцца ў рух пры дапамозе жэрдкі, што ўстаўляецца ў выемкі ў верхняй частцы Б. Сані ўтрымліваюцца на месцы вяроўкамі з крукамі. Найбольш характэрна для рыбалоўства ў Паазер'і.

**БА́БА**, вялікі камяк гліны, спецыяльна падрыхтаваны як сыравіна для ганчарных вырабаў. Лакальныя назвы кабылка, пень, стоўбік. Пры дапамозе доўбні (лапаты, праніка) збівалася з 2—3 розных па пластычнасці гатункаў ганчарнай гліны. Каб ачысціць ад мінеральна-раслінных дамешкаў і палепшыць пластычныя якасці сыравіны, ганчары дробна стругалі Б. стругам, зрэзкай або цэрлі металічнай таркай.

**БАБА́ЙКІ**, рулявыя вёслы на пярэднім і заднім звёнах плыта на Дняпры.

**БА́БАЧНІК**, гліняная пасудзіна ў выглядзе ўсечанага конуса з вертыкальнымі глыбокімі ўмяцінамі па баках для выпякання велікоднага пірага. Лакальныя назвы пасачнік, стаўчык, форма. На ПдЗ Беларусі Б. з вушкамі.



**Бабы** для падцягвання невада пры зімовай лоўлі рыбы. Гарадскі пасёлак Асвея Верхнядзвінскага раёна.

**БА́БІНА КА́ША**, абрадавая страва на *радзінах*. Кашу з прасяных, ячных або грэцкіх круп варыла бабка-павітуха на малацэ, з яйкамі, цукрам, мёдам, маслам. Зверху кашу аздаблялі цукеркамі і кветкамі. На Віцебшчыне Б. к. называлі таксама піражкі, сухарыкі, булачкі, якія выконвалі тую ж абрадавую функцыю. Б. к. падавалі пад канец святочнага абеду, калі пачынаўся «торг» за яе, які цягнуўся гадзінамі. Спачатку

ўносілі не сапраўдную Б. к., а гаршчок з бульбай, гарбузом, нават катом. Пасля «торгу» гаршчок з Б.к. заставаўся ў таго, хто паклаў болей грошай (па традыцыі гэта рабіў кум). Той, каму даставалася Б.к., разбіваў гаршчок на шчасце нованароджанаму, частаваў кожнага госця кашай на чарапку. З падзелам Б.к. былі звязаны магічныя звычаі і абрады (на бяздзетных жанчын кідалі чарапкі з кашай з пажаданнем ім праз год «кашы» — нараджэння дзіцяці). Б. к. неслі дадому дзецям як пачастунак і «каб багата жылі». Частку грошай, сабраных з гасцей, забірала бабка, астатнюю яна аддавала парадзісе «на мыла». У наш час пры святкаванні радзін у якасці Б. к. даюць цукеркі, пячэнне, торт, якія па традыцыі падаюць на гаршку. *Т. І. Кухаронак.*

**БА́БІНА ЛЕ́ТА,** у народным календары цёплая пара ў канцы верасня — пачатку кастрычніка. Дні Б. л. надыходзілі пасля значнага пахаладання. На Беларусі бывае амаль штогод і прадаўжаецца ад некалькіх дзён да двух тыдняў. Такая назва паходзіць ад таго, што на гэты час прыпадала пераважна «бабская» работа на агародзе і ў полі, а магчыма ад таго, што гэта кароткае «лета» атаясамлівалі з кароткім «бабіным векам». Пагодлівае надвор'е спрыяла ўборцы гародніны, копцы бульбы, у гэты час церлі і трапалі лён і каноплі. З назвай Б. л. звязана шмат нар. песень. На Мядзельшчыне Б. л. называлі тыдзень перад *пакровамі,* калі праводзілася варажба на «шчаслівую бабулю» *(бабку).* Усе дні Б. л. загадзя размяркоўвалі паміж практыкуючымі ў наваколлі бабкамі-павітухамі: напр., панядзелак — Тэклі, аўторак — Юстыны, серада — Марцэлі і г. д. На чый дзень выдавалася сонечнае і ціхае надвор'е, лічылася, што рука ў той бабулі лёгкая і шчаслівая, адпаведна і роды будуць лёгкія, дзіця — шчаслівае. «Светлая варажба» надавала ўпэўненасць будучым маці ў паспяховым заканчэнні іх цяжарнасці. *У. А. Васілевіч, Л. М. Салавей.*



Бабкі.

**БАБІНАВІЦКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў з в. Бабінавічы Лёзненскага р-на. Промысел узнік у старажытнасці, найбольшага росквіту дасягнуў у 19—1-й пал. 20 ст. З высакаякасных сініх і чырвоных глін з дамешкам дробнага рачнога пяску і жарствы выраблялі чорназадымленую і гартаваную кераміку (апошнюю загартоўвалі ў *абвары*). З пач. 20 ст. пашырана паліванне. Кераміку аздаблялі белай *ангобнай размалёўкай* у выглядзе завіткоў, зігзагаў, кропак (наносілі з дапамогай каровінага рога з дзіркай) і палівалі ў сярэдзіне і звонку (у верхняй частцы) бясколернай, зялёнай ці карычневай палівай. Акрамя гаспадарчага посуду (збанкі, гаршкі, спарышы, міскі, слоікі), выраблялі утылітарна-дэкаратыўны (цукарніцы, цукерачніцы, маслёнкі, вазы) і фігурны посуд у выглядзе фігур жывёл, цацкі, скарбонкі, бочачкі-барылкі, попельніцы з ляпнінай. Высокія мастацкія якасці надавалі ёй папулярнасць на значнай тэр. ўсх. Віцебшчыны і Магілёўшчыны, вырабы вывозіліся ў Оршу, Багушэўск, Смаленск, Лёзна, Дуброўна і інш. У 1930—50-я г. ў Бабінавічах працавала арцель «Чырвоны паліўнік». Промысел існаваў да пач. 1980-х г. Калекцыі Б. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі старраж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР. *Я. М. Сахута.*



Бабачнікі.



Бабінавіцкая кераміка.

**БА́БІЧ,** дзіця, што нарадзілася ў жанчыны, якая ўжо «бабіла» дзяцей — была *бабкай*-павітухай. Такая з'ява сустракалася рэдка і выклікала кпіны аднавяскоўцаў. Адлюстравана ў некаторых бел. казках.

**БА́БКА,** бабка-павітуха, баба, пажылая, спрактыкаваная і паважаная жанчына, якая валодала прыёмамі народнай медыцыны і выконвала акушэрскія функцыі ў час родаў, а таксама шматлікія абрады, звязаныя з адразаннем пупавіны, першым купаннем і спавіваннем дзіцяці, укладаннем яго ў калыску і інш. Акрамя таго, яна імкнулася «аблегчыць» пакуты парадзіхі магічнымі дзеяннямі, заснаванымі на веры ў звышнатуральныя сілы: развязвала вузлы, адмыкала замкі, расплятала косы і інш. Пры першым купанні Б. мела права даць дзіцяці імя (на Палессі гэты звычай называўся «ахрысціць дзіця з вады»). На працягу першых трох дзён пасля родаў Б. купала дзіця і рабіла ўсю хатнюю работу ў доме парадзіхі. На *радзінах* Б.— самы паважаны госць і распарадчык святочнага застолля, да якога яна гатавала спецыяльную абрадавую страву — *бабіну кашу.* У наш час ролю Б. на радзінах звычайна выконвае старэйшая сваячка парадзіхі. *Т. І. Кухаронак.*

**БА́БКА,** традыцыйная бел. страва. Лакальныя назвы таркаванка, агульнік, дзед, дранка, маўчун, бульбяная каша. Драную бульбу засквартваюць салам, мясам з цыбуляю і інш. спецыямі, перамешваюць, выкладваюць у змазаны тлушчам посуд і запякаюць у гарачым духу. Часам у Б. дадаюць муку, крупы, грыбы і інш. Гатовую Б. звычайна прыпраўляюць маслам ці салам або падаюць з малаком, смятанай, настоем з брусніц, журавін, бярозавым сокам. Была распаўсюджана ў паўд.-зах., зах. і цэнтр. раёнах Беларусі. У наш час вядома паўсюдна. *І. П. Корзун.*

**БА́БКА,** жалезнае або сталёвае кавадлачка для кляпання касы. Пашыраны

двух відаў: тупыя і вострыя. Для зручнасці кляпання Б. звычайна забіваюць у калоду.

**БА́БКІ**, спосаб сушкі снапоў у полі. Ужываўся пераважна для сушкі зжатага жыта, радзей пшаніцы. Звычайна Б. ставілі з 10 снапоў: да вертыкальна пастаўленага снапа з чатырох бакоў пад нахілам прыстаўлялі па аднаму снапу, потым у прамежкі паміж імі — яшчэ чатыры снапы, апошнім — дзесятым снапам — накрывалі Б. Сцяблы з калоссем гэтага снапа заломвалі каля перавясла, каб атрымалася «веер-шапка». Яна засцерагала астатнія снапы ад дажджу і мацавала Б. У добрае надвор'е «шапку» здымалі, каб зерне ў снапах высыхала хутчэй. У паўд.-зах. і зах. паветах Беларусі (Брэсцкім, Кобрынскім, Пружанскім, Ваўкавыскім, Лідскім, Ашмянскім), у некаторых цэнтр. і паўд. паветах Мінскай губ. (Койданаўскім, Бабруйскім, Слуцкім, Рэчыцкім, Рагачоўскім, Пінскім, Мазырскім і інш.) Б. называлі мэндлікамі, мэндлямі. На У і ПдУ Беларусі (у Клімавіцкім, Аршанскім, Чэрыкаўскім, Гомельскім, Чавускім, Горацкім і інш. паветах) Б. часам называлі дзесяткі, стаякі, стаўкі. У паўн. паветах, дзе клімат больш вільготны, часам ставілі меншыя Б. (з 6 снапоў), каб зерне ў калоссі і салома ў снапах прасыхалі хутчэй. *Л. І. Мінько.*



**Бабкі.** Вёска Селішча Драгічынскага раёна.

**«БА́БКІ»**, народная гульня. Некалькі пар бабак (падкапытныя косці·жывёл) ставяць на роўным месцы ў рад («кон») і з абумоўленага месца кожны гулец па чарзе збівае іх біткай (вялікая бабка, набітая свінцом). Збітыя бабкі лічацца выйгранымі. Разнавіднасць гульні — біток, дзе замест бабак выкладаюць піраміду з арэхаў, вакол якой праводзіцца круг — «горад». Гульцы з абумоўленага месца кідаюць найбольшы арэх-біток у піраміду. Арэхі, выбітыя за мяжу круга, лічацца выйгранымі. Той, хто прамахнуўся, дабаўляе ў піраміду арэх. Гульня скончана, калі ўсе арэхі выбіты з «горада».

**БАБРО́ВЫЯ ГО́НЫ**, месцы рассялення баброў, бабровыя калоніі. Лакальныя назвы баброўня, гоны, жэрамя. З часоў Кіеўскай Русі знаходзіліся ў прыватнай уласнасці прывілеяваных колаў грамадства. У Вял. кн. Літоўскім Б. г. належалі тым уласнікам, на чыёй зямлі знаходзіліся. Здаўна былі пад аховай закона. Паводле «Рускай праўды», за крадзеж бабра спаганяўся штраф. Артыкулам «Пра бабровыя гоны» Статута Вял. кн. Літоўскага 1529 запаведнасць Б. г. замацавана законам. Пад пагрозай штрафу забаранялася абкошваць, аворваць і секчы лазу вакол Б. г. на адлегласці кінутай палкі. За паляванне на бабра прадугледжваўся штраф (за карага бабра капа грошай, за чорнага — дзве). Статут Вял. кн. Літоўскага 1588 павялічыў штраф удвая. Лоўляй баброў і наглядам за Б. г. займаліся *баброўнікі.* У вялікіх маёнтках за іх працай наглядаў баброўнічы. У 1551 полацкая і віцебская шляхта дамагалася выдання «Уставы аб людзях паходжых», паводле якой павіннасць лавіць баброў была пашырана на вольных сялян. Лавілі баброў адмысловымі сеткамі, капканамі, стралялі з лука, стрэльбы. У наш час паляванне на баброў дазваляецца па ліцэнзіях. *С. Ф. Цярохін.*

**БАБРОЎНІКІ**, катэгорыя феадальназалежных сялян у 15—18 ст., асноўнай павіннасцю якіх было паляванне на баброў і ахова *бабровых гонаў.* Падпарадкоўваліся баброўнічаму, службоўцу са шляхты. З 1551 згодна «Уставы аб людзях паходжых» павіннасць лавіць баброў была пашырана і на вольных сялян. За работу Б. атрымоўвалі кожнага пятага бабра або падчарэўе ад кожнага злоўленага звера. Зямельны надзел Б. у 16 ст. быў каля 1 валокі (вызвалены ад усіх падаткаў), да сярэдзіны 18 ст. паменшыўся напалову. У сувязі з драпежніцкім знішчэннем звяроў у 18 ст. бабровы промысел страціў эканам. значэнне і Б. зліліся з інш. катэгорыямі насельніцтва.

*С. Ф. Цярохін.*

**БАБРО́ЎСКІ** Павел Восіпавіч [21. 3(2.4). 1832, б. маёнтак Вака каля Вільні — 3(16) 2.1905], гісторык і этнограф. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус (1849), Мікалаеўскую акадэмію Ген. штаба (1857). У 1860—75 на штабных пасадах, у 1875—97 начальнік Ваеннаюрыдычнай акадэміі; генерал-маёр. Аўтар грунтоўнага даследавання «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба: Гродзенская губерня» (ч. 1—2. Спб., 1863), дзе даецца апісанне жылля і гаспадарчых пабудоў, адзення і страў, хатняга і сямейнага побыту, вераванняў, абрадаў і звычаяў, вытворчай дзейнасці беларусаў, прыводзяцца звесткі пра матэрыяльнае становішча і класавую дыферэнцыяцыю бел. вёскі пач. 1860-х г.; артыкулаў па этнаграфіі Беларусі («Ці можна адно вераванне прыняць у аснову племяннога размежавання славян Заходняй Расіі?», 1864, і інш.). Вывучаў гісторыю летапісаў, уніяцкай царквы, права. Гісторыю бел. мовы выводзіў са стараж.-рускай мовы, але дапускаў памылкі ў вызначэнні шляхоў яе развіцця.

*Тв.:* Судьба Супрасльской рукописи... Спб., 1887; Ещё заметка о Супрасльской рукописи... Спб., 1888; Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. Спб., 1890.

*В. К. Бандарчык.*

**БАБРУ́ЙСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з Бабруйска. Промысел вядомы з даўніх часоў. У канцы 19— пач. 20 ст. ў Бабруйску працавала каля 60 майстроў. Выраблялі дымлёныя (т. зв. сінія), а з 1930-х г. паліваныя рэчы. Рабілі посуд: гаршкі, збаны, гладышы, глякі, слаі, формы, міскі, макатры, вазоны, талеркі, букетнікі, вугольнікі (4 гаршчочкі, злучаныя разам і змацаваныя ручкай) і інш. Выраблялі таксама дробную пластыку (бараноў, ільвоў, мядзведзяў), цацкі. Гаршкі, міскі, макатры, вазоны былі 5 памераў, кожны з якіх меў сваю назву: вярэйка (гаршчок каля 4 л), абеднік (2 л), укладыш больш (1 л) і інш. Своеасаблівасць мастацкага выгляду керамікі вызначалі мясцовая сыравіна, майстэрства рамеснікаў, тэхналагічны ўзровень вытворчасці, традыцыі. Б. к. вылучаюць своеасаблівыя прапорцыі, спалучэнне бясколернай палівы з багатым каларытам светла-чырвоных глін, сціплае дэкарыраванне абводкамі і штампікамі, асаблівасці ў канструкцыі накрывак і ручак. У наш час у Бабруйску працуе цэх мастацкай керамікі аб'яднання «Беларуская мастацкая кераміка», створаны на базе ганчарных рамесных майстэрняў. *У. В. Угрыновіч.*

**БА́БЫ**, памінальны дзень, які папярэднічаў *дзядам.* У старажытнасці ўшанаванне продкаў праводзілі ў два дні — у адпаведнасці з полам нябожчыка. Б. адрозніваліся ад дзядоў больш сціплым асартыментам страў (Лепельшчына); не выстаўлялі на стол скаромнага, пяклі посныя бліны, варылі квас з грыбамі ці вяленай рыбай і кісель (Случчына). Ужо ў 19 ст. Б. не

адначалі (захавалася толькі назва).

**БАБЫЛІ́**, катэгорыя збяднелых беззямельных сялян у 16—19 ст. Назва перайшла з Рус. дзяржавы. Большасць Б. жылі ў вёсках, некаторыя — у гарадах і мястэчках, займаліся рамяством, дробнымі промысламі, наймаліся на розныя работы. Многія (напр., *халупнікі)* мелі ўласную хату (халупу), невялікую колькасць жывёлы. Іншыя займалі камору або кут у чужых дамах і называліся *каморнікамі, кутнікамі*. Тэрміны «Б.», «кутнікі» найбольш пашыраны на У. Беларусі, тэрмін «каморнікі» — на З. Асноўнай павіннасцю Б. была бабыльшчына — грашовы аброк (чынш) ад 1 да 4 злотых у год. У асобных уладаннях у 2-й пал. 18 ст. выконвалі і інш. павіннасці (ездзілі з «лістамі», адбывалі варту ў фальварках, памагалі агароднікам і садоўнікам, плацілі падымнае і інш.). Пасля далучэння Беларусі да Расіі абкладаліся падушным падаткам. У 19 ст. зліліся з інш. катэгорыямі сялян. Тэрмін «Б.» захаваўся, але набыў іншы сэнс: адзінокі, бессямейны чалавек.

*В. І. Мялешка.*



А. Я. Багдановіч.



Бабруйская кераміка.

**БАГА́ТАЯ КУЦЦЯ́**, гл. ў арт. *Куцця*.

**БАГА́ТЫЯ ДЗЯДЫ**, дзень памінання продкаў. Гл. ў арт. *Асяніны*.

**БАГА́Ч**, 1) багатнік, багатуха — старадаўняе земляробчае свята, што спраўлялі пасля заканчэння жніва. З пашырэннем хрысціянства Б. быў прымеркаваны да свята нараджэння божай маці (8 верасня с. ст.), якая лічылася заступніцай ураджаю. Быў важным момантам у нар. земляробчым календары: у гэты час заканчвалі ворыва зябліва і пачыналі сяўбу азімых — «Прыйшоў багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку». Свята мела абшчынны характар і бытавала ў бел. вёсцы да канца 19 ст. (пераважна на Гродзеншчыне і Паўн. Палессі). 2) Сімвал свята Б.— сявенька з жытам ці пшаніцай і ўстаўленай васковай свечкай (жыта вымалочвалі з першага зажыначнага снапа і зносілі па жменьцы з кожнага двара). З Б. абходзілі ўсе двары ў вёсцы, а на заканчэнне зганялі на выгане статак і абносілі вакол яго Б. Пасля свята яго ставілі ў хаце пэўнага гаспадара і пакідалі да наступнага жніва (за гэта ён частаваў удзельнікаў урачыстага абходу). Паводле нар. павер'яў, Б. павінен быў забяспечыць дому багацце і шчасце.

*Л. І. Мінько, М. Ф. Піліпенка.*

**БАГДА́НАЎ** Анатоль Пятровіч [1(13).10.1834, Ніжнедзявіцкі пав. Варонежскай губ.— 16(28).3.1896], рускі антраполаг, заолаг, адзін з заснавальнікаў айчыннай антрапалогіі. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1890). Па яго ініцыятыве пры Маскоўскім ун-це створана Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (1863), у 1864 пры ім заснаваны антрапалагічны аддзел. Арганізаваны этнагр. (1867) і антрапалагічная (1879) выстаўкі, на базе якіх заснаваны антрапалагічны музей. Пад кіраўніцтвам Б. пачалося сістэмнае вывучэнне этнагр. і антрапалагічных асаблівасцей розных народаў Расіі, у т. л. беларусаў. Большасць антрапалагічных прац Б. прысвечана краніялогіі стараж. насельніцтва Расіі («Матэрыялы для антрапалогіі курганнага перыяду ў Маскоўскай губ.», 1867) і інш. Першы ў гісторыі навукі адзначыў зменлівасць з цягам часу фізічнага тыпу чалавека (на прыкладзе параўнання сярэдневяковага і блізкага да сучаснасці ўсх.-слав. насельніцтва).

*І. І. Салівон.*

**БАГДАНО́ВІЧ** Адам Ягоравіч [20.3(1.4).1862, г. п. Халопенічы Крупскага р-на — 16.4.1940], бел. этнограф, фалькларыст, мовазнавец. Бацька паэта М. Багдановіча. Скончыўшы Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1882), працаваў настаўнікам у Ігуменскім пав., з 1885 загадчык гарадскога пачатковага вучылішча ў Мінску. Удзельнічаў у народніцкім руху, адзін з кіраўнікоў Мінскага гуртка «Народнай волі» (1885—92). З 1892 жыў у Гродне, служыў у Гродзенскім аддзяленні сялянскага банка, адначасова быў дырэктарам публічнай бібліятэкі. З 1896 жыў у Ніжнім Ноўгарадзе, з восені 1907 у Яраслаўлі. У 1880—93 актыўны карэспандэнт П. В. *Шэйна*, у зборніках якога змешчаны фальклорныя творы, апісанні гульняў, сродкаў нар. медыцыны, абрадаў, вераванняў, забабонаў, прыкмет, сабраных Б. у Барысаўскім пав. Асаблівую каштоўнасць уяўляюць яго апісанні вясельнай абраднасці мяст. Халопенічы Барысаўскага пав. Першае яго этнагр. даследаванне — «Нарыс становішча жанчыны ў сялянскім асяроддзі беларускага краю» (Минский листок. 1886. № 39). Аўтар публікацый «Педагагічныя погляды беларускага народа» (там жа. 1886. № 61), «Пра паншчыну» (Гродненские губернские ведомости. 1894. № 10, 11, 16). У 1895 было апублікавана грунтоўнае даследаванне па этнаграфіі — «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў», у якім вялікі фактычны матэрыял, сабраны на тэр. Мінскай (Барысаўскі, Ігуменскі, Слуцкі, Мінскі, Навагрудскі пав.), Магілёўскай (Сенненскі, Аршанскі пав.) і Віцебскай (Лепельскі пав.) губ., класіфікаваны ў асобныя раздзелы (перажыткі фетышызму, анімізму, пераўвасаблення, культаў сонца, нячыстай сілы, чараўніцтва і інш.). Аналізуючы перажыткі, што захаваліся ў светапоглядзе народа ва ўмовах цяжкага сацыяльнага і духоўнага прыгнёту, аўтар даказвае неабходнасць уздыму асветы, культуры і дабрабыту працоўных

мас. Б. падрыхтаваў значную колькасць прац па мове, тапаніміцы народаў свету, этнічнаму складу славян, у т. л. беларусаў, а таксама па гісторыі народніцтва на Беларусі: «Мова зямлі. Утварэнне водарачных імёнаў і што ад іх паходзяць» (т. 1—2), «Этнічны склад народаў славянскіх і рускіх», «Этнічны склад беларускага народа» (у рукапісах). Аўтар успамінаў пра сына — М. Багдановіча, пра М. Горкага, з якім сябраваў доўгі час, Ф. Шаляпіна і інш. Большасць з іх асталіся ў рукапісах. Архіў Б. зберагаецца ў Ін-це літаратуры АН БССР. *В. К. Бандарчык.*

**БАГДА́НЬКА,** імя, якое давалі дзіцяці да таго часу, пакуль яго ахрысцяць у царкве і дадуць «сапраўднае» імя. Рабілася гэта з мэтай засцерагчы дзіця ад «злых сіл». У нач час такі звычай амаль знік.

**БАГО́Р,** бусак, 1) прылада для падцягвання бярвёнаў у вадзе на сплаве; шост з вострым металічным накапечнікам, ад якога адгаліноўваецца такі ж вострьі крук. Лакальная назва басак. Выкарыстоўваецца ў плытагонстве, пры тушэнні пажару і інш. 2) Традыцыйная рыбалоўная прылада; дрэўка з адным або двума металічнымі крукамі на канцы. Прызначаўся для лоўлі рыбы ў палонках: рыбак падводзіў пад рыбіну крук, рэзкім рухам падчэпліваў яе і выкідваў на лёд. Быў характэрны для рыбалоўства на Паазер'і. У наш час лоўля Б. забаронена.



Балалайка.

**БАДУЭ́Н ДЭ КУРТЭНЭ́** (Baudouin de Courtenay) Іван (Ян Ігнацы Няцыслаў) Аляксандравіч [1(13).3.1845, г. Радымін ПНР — 3.11.1929], рускі і польскі мовазнавец-славіст і педагог. Акад. Кракаўскай (1887), чл.-кар. Пецярбургскай (1897) АН. Скончыў Гал. школу ў Варшаве (1866). Праф. Казанскага, Юр'еўскага (Тартускага), Кракаўскага, Пецярбургскага (1900—18) ун-таў. Прадстаўнік агульнага і параўнальнагіст. мовазнаўства, заснавальнік казанскай і пецярбургскай лінгвістычных школ. Запісваў і друкаваў (з нотамі) бел. нар. песні. У штогодніку «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Збор звестак да айчыннай антрапалогіі») апублікаваў «Беларуска-польскія песні з Сакольскага павета Гродзенскай губерні» (1892) і «Дадатак да «Беларуска-польскіх песень з Сакольскага павета Гродзенскай губерні» (1895), дзе змясціў 25 песень, у т. л. 13 бел. народных (лірычныя, любоўныя, рэкруцкія, скакухі). У «Дадатку...» надрукаваў папраўкі і дапаўненні да 1-й часткі публікацыі. Выступаў у абарону правоў нацыянальных меншасцей (у прыватнасці беларусаў) і іх моў. Яго погляды на бел. мову выкладзены ў рэцэнзіі на працу К. Ю. Апеля «Пра беларускую гаворку» (1880). *А. Ф. Літвіновіч.*

**БАЖБА́,** клятва імем бога.



**Бажніца.** Вёска Цярэнічы Гомельскага раёна.

**БАЖНІ́ЦА,** багоўня, ківот, драўляная шафка або палічка з абразамі, пярэдка зашклёная, прамавугольнай ці трохвугольнай формы. Яе аздаблялі разьбой, упрыгожвалі ручнікамі, *выцінанкамі* і інш. Размяшчалася звычайна ў хаце на покуці, зрэдку ў клеці ці гумне (дзе селянін праводзіў значную частку свайго часу). У старажытнасці пад Б. разумелі язычніцкі храм, капішча. Гэты сэнс у значнай ступені захаваўся і ў больш позні час у адносінах да рытуальнага месца, дзе адпраўлялі малітву,— капліцы, слупавага знака, крыжа з распяццем на раздарожжы, малітвенага месца ў царкве, невялікага іканастаса ў святліцы і інш. *В. С. Цітоў.*

**БАЗА́Р,** 1) гандаль (пераважна прыватны) прадуктамі і інш. таварамі шырокага ўжытку ў пэўныя дні на спецыяльна адведзеных плошчах; вялікі перадсвяточны або сезонны гандаль спецыяльнымі таварамі, звычайна на адкрытым месцы. 2) Спецыяльна адведзенае месца з адпаведнымі прыстасаваннямі і будынкамі для гандлю; тое, што і *рынак.*

**БАЙ,** казачны персанаж або казачнік; апавядальнік (звычайна дзед з барадою), які займальна расказвае байкі, казкі. Лакальныя назвы баяр, баяшнік, бахар. Сустракаецца Б. у калыханках («Баю, бай...»), гульнях («Жаніцьба бахара»), казках: «Быў сабе багаты пан, а любіў ён вельмі слухаць баек і трымаў на сваім двары баяра» («У якім небе пан быў»); «Вот у цара баяшнік быў — вядома, цар спіць, а баяшнік байкі бае» («Міхей-кравец і Марцін-шавец») і інш. *А. Ю. Лозка.*

**БАЙДА́К,** пласкадоннае драўлянае грузавое судна з двухсхільным дахам і мачтай. Нос і карма звужаныя, прычым карма амаль вертыкальная, нос з невялікім развалам, бакі крыху разгорнутыя. Даўж. 25—53 м, шыр. 4—10 м, грузападымальнасць 80—250 т. Па канструкцыі самае вузкае, адносна сваёй даўжыні, і непаваротлівае судна. Хадзіла ўверх і ўніз па цячэнню ракі пад ветразем, служыла да 10 гадоў. Будавалі Б. у басейнах Дняпра і Прыпяці. На Сожы, Бярэзіне, Піне выкарыстоўвалі судны меншых памераў — паўбайдакі (грузападымальнасцю 40—80 т). Б. з'явіўся на Беларусі ў 16 ст., у сярэдзіне 19 ст. выцеснены больш зручнай *берлінай.* *Н. І. Буракоўская.*



Балея авальная з вушкамі.

**БАКЛА́ГА,** бандарны выраб; двухдонная пляскатая пасудзіна на 5—10 л для дастаўкі вады, квасу і інш. напіткаў; тое, што і *біклага.*

**БАКО́ЎКА,** у сядзібным доме — малы бакавы пакой, што прылягаў да вялікага пакоя ці *алькова.* Існавалі таксама ў *флігелях, корчмах.* На Беларусі пашырылася ў канцы 16 ст. Паходзяць ад гаспадарчых камор, адгароджаных у тыльнай частцы сянец. Выкарыстоўваліся як каморы, жылыя пакоі, пякарні. У Б. будавалі кафляныя (часам цагляныя) печы, каміны, ставілі лавы, сталы, зэдлікі,

шафкі. Некаторыя Б. не абаграваліся і выкарыстоўваліся як летнія жылыя пакоі. Паводле інвентароў 17 ст., Б. існавалі ў дамах сядзіб у в. Цімкавічы Капыльскага, в. Івань Слуцкага, в. Струня Полацкага, г. Давыд-Гарадок Столінскага р-наў і інш. *Ю. А. Якімовіч.*

**«БАЛАБА́С»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Зафіксаваны ў канцы 19 ст. ў Ваўкавыскім пав. М. Федароўскім. «Б.» суправаджаўся выкананнем жартоўных прыпевак:

Людзі кажуць і гавораць,
Што я замуж не пайду.
Ох, пасаджу васільеньку
У вішнёвым саду!

Ой, васілька мая,
І Васілько пры мне;
Ліхо яго бацька знае,
Спадабаўся ён мне.

*А. Л. Варламаў.*

**БАЛАБУ́ХА**, булачка з пшанічнай або жытняй мукі. Лакальныя назвы балабуша, балабушка. Пяклі з хлебнай рошчыны, у якую дадавалі пшанічную муку. Прэсныя Б. пяклі на памінкі. Вядома пераважна на Магілёўшчыне і Цэнтр. Палессі.

**БАЛАЛА́ЙКА**, народны струнны шчыпковы музычны інструмент. Лакальныя назвы балабайка, каліпок. Самаробная Б. на Беларусі мае драўляны трохвугольны корпус («каробку») розных памераў, ручку («шыйку») з ладамі, колькасць якіх вар'іруецца, 3, 4, або 6 металічных струн. Нар. музыканты пры ігры на Б. ўжываюць строі «балалаечны» і «гітарны» («мінорны»). Асноўны спосаб гуказдабывання — удар па струнах пальцамі правай рукі або плектрам зверху ўніз і наадварот. Гучанне даволі слабае, але звонкае. У нар. музычнай практыцы Б. выкарыстоўваюць як інструмент сольны і ансамблевы. На Б. іграюць «для сябе» і «на людзях» — на вячорках, ігрышчах, танцах, асабліва там, дзе збіраецца моладзь. Пераважнае месца ў рэпертуары балалаечнікаў займаюць танцы і прыпеўкі. Верагодна, што Б. запазычана беларусамі ў рускіх не пазней 18 ст. Пра гэта сведчыць яе выява на размалёўцы ў Гродзенскім францысканскім касцёле. У этнагр. літаратуры ўпамінаецца з сярэдзіны 19 ст. Асабліва пашырэнне набыла ў 1920—30-я г. У наш час сустракаецца на ўсёй Беларусі. *І. Дз. Назіна.*

**БАЛВА́Н**, 1) вылепленая або высечаная з якога-небудзь матэрыялу фігура чалавека. 2) Драўляны слуп пры печы.

**БАЛЕ́Я**, бандарны выраб; пасудзіна для мыцця бялізны і купання. Рабілася з кароткіх клёпак, што расстаўляліся вакол шырокага круглага ці авальнага днішча; з вушкамі і без іх. Авальная Б. больш зручная ў практычным ужыванні. Бытавалі пераважна ў зах. частцы Беларусі, на У у хатнім ужытку Б. часцей замянялі *ночвы*. У наш час у нар. побыце сустракаецца рэдка.

**БАЛТРАМА́ЙЦІС** Сільвестрас Іосіфавіч [21.10.1841, в. Манкішкяй Радвілішкскага р-на Літоўскай ССР — 1918 (?)], літоўскі бібліёграф і этнограф. У 1886—1918 працаваў у Пецярбургскай Публічнай б-цы, дзе рыхтаваў бібліяграфічныя выданні. Асноўная праца Б. — «Зборнік бібліяграфічных матэрыялаў для геаграфіі, гісторыі, гісторыі права, статыстыкі і этнаграфіі Літвы... З 1853 да 1903 г.» (2 выд., Спб., 1904). Першае выд. зборніка (1891) ахоплівала перыяд з 1553 па 1891. Лічыў цэнтр. і зах. землі Беларусі гіст. Літвой. Таму ў «Зборнік...» ўключаны гісторыка-этнагр. нарысы пра бел. гарады і паселішчы (Вілейку, Ашмяны, Брэст, Гродна, Ліду, Маладзечна, Мінск, Смаргонь, Слонім і інш.), літаратура пра бел. земляробства, жывёлагадоўлю, бортніцтва, нар. промыслы, паляванне; пра бел. старажытнасці, рунічнае пісьмо, старадрукі. У ім шырока прадстаўлена літаратура дзеячаў бел. навукі і культуры Я. Чачота, Я. П. і К. П. Тышкевічаў, Я. Ф. Карскага, М. К. Любаўскага, М. В. Без-Карніловіча, Біруты (А. Даравінская), У. Сыракомлі, П. В. Бабкоўскага, А. Г. К. Кіркора, Ю. Ф. Крачкоўскага, П. В. Шэйна, А. М. Семянтоўскага, М. Федароўскага, В. А. Шукевіча, М. А. Янчука і інш. *Г. А. Каханоўскі.*

**БА́ЛТЫ**, 1) група стараж. лета-літоўскіх (латгалы, жэмайты, земгалы), пруса-ятвяжскіх (прусы, ятвягі, куршы, галінды, скальвы, борці, дайнова), днепра-дзвінскіх і верхнеяокскіх (го-



ледзь) плямён. 2) Назва сучасных народаў — літоўцаў і латышоў, мовы якіх належаць да балтыйскай групы індаеўрапейскай сям'і моў. Паходжанне назвы Б. звязваюць з лацінскай назвай вострава на Пн Еўропы (Baltia, Balcia), які апісаў Пліній Старэйшы (1 ст. н. э.). Аднакарэнныя словы сустракаюцца ў паўн.-германскага храніста Адама Брэменскага (11 ст.), у нямецкіх (прускіх) хроніках, стараж.-рускіх і бел.-літ. летапісах 14—16 ст. У навуковы ўжытак тэрмін «Б.» ўведзены нямецкім лінгвістам Г. Несельманам у 19 ст. Фарміраванне балцкіх плямёнаў (3—2 тыс. да н. э.) даследчыкі звязваюць са *шнуравой керамікі культурай*, арэалы распаўсюджання якой ахаплівалі вял. тэр. Усх. Еўропы, у т. л. і землі Беларусі. Пачатак актыўных кантактаў Б. са слав. насельніцтвам (крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі, вяцічамі, наўгародскімі славенамі) адносіцца да 2-й пал. 1 тыс. н. э., а пачынаючы з 13 ст. яны падтрымлівалі цесныя паліт., сацыяльна-эканам. і культурныя сувязі. На думку сучасных археолагаў, лінгвістаў і антраполагаў, балцкі субстрат адыграў пэўную ролю ў фарміраванні этнічнай спецыфікі зах. груп усходнеславянскага насельніцтва 9—13 ст., з якіх склалася бел. народнасць. *І. У. Чаквін.*

**БАЛЬ,** плыт на Піне і Ясельдзе. Даўж. 100 м, шыр. 4 м (меў да 20 звёнаў).

**БА́ЛЬНІКІ,** плытагоны на Піне і Ясельдзе. Лакальная назва бальшчыкі.

**БАЛЬША́К,** упарадкаваны сухапутны шлях з бойкім рухам; тое, што і *гасцінец*.

**БАЛЭ́ЙБУХ,** бульбяная страва. Тоўчаную вараную ці таркаваную сырую бульбу перамешвалі, дадавалі тлушчу або смятаны і пяклі на капусным лісце. Быў вядомы ў Зах. Палессі.

**БАЛЯ́СА,** балясіна, слупок для невысокай агароджы; точаны фігурны слупок у агароджы тэрас, балконаў, ганкаў і інш., што служыць для апоры поручняў і ўпрыгожання.

**БАНДА́РНЫЯ ВЫ́РАБЫ,** драўляныя ёмістасці з клёпак для зберагання і дастаўкі прадуктаў, вадкіх, паўвадкіх і сыпучых рэчываў. Ва ўжытку беларусаў вядомы з глыбокай старажытнасці. Шматлікія іх рэшткі розных памераў (ад невялікіх *конавак* да вадавозных бочак на некалькі сот літраў) выяўлены пры археалагічных раскопках у пластах 11—14 ст. Форма клёпак (падоўжныя трапецападобныя ці акруглыя выпуклыя) абумовіла форму Б. в.— кадзепадобную (канічную) ці бачарную (пукатую). Б. в. адрозніваліся памерамі, прапорцыямі, наяўнасцю састаўных элементаў, матэрыяламі (пародамі дрэва). Паводле прызначэння вылучаюць наступныя віды пасудзін: для вады і вадкіх рэчываў — транспартная бочка, *кадушка* (вадзянка), *вядро, біклага, барылка*, конаўка; для захоўвання с.-г. прадуктаў — бочка (судзіна, усыпішча), кадзь, бачурка, *кубелец;* для бытавых патрэб — *кубел, жлукта, балея, цэбар, ражка, дзяжа, даёнка, бойка, бельчык;* меры ёмістасці — *асьміна, шаснастка, гарнец, карэц*. Некаторыя вырабы (бочкі, кадзі, цэбры, вёдры) вызначаліся шырокім дыяпазонам ужывання ў хатняй гаспадарцы. Адна і тая ж пасудзіна нярэдка мела розную вонкавую форму (балея круглая, авальная, вёдры звычайнай формы і кадушкападобныя, бачуркі адна- і двухдонныя і інш.). Гэтыя адрозненні выяўлялі геагр. заканамернасць распаўсюджання, разам з тым сустракаліся як паралельныя варыянты ў адной і той жа мясцовасці. Большасць Б. в. вызначалася функцыянальнай мэтазгоднасцю, вонкавай прастатой, практычнасцю. Некаторыя вырабы невялікіх памераў (біклагі, барылкі, карцы, бельчыкі) аздабляліся разьбой і выпальваннем. У наш час многія Б. в. саступілі месца разнастайным металічным, фарфора-фаянсавым і пластмасавым ёмістасцям. *В. С. Цітоў.*



Бандарныя вырабы.

**БАНДАРНЫЯ ІНСТРУМЕ́НТЫ,** гл. ў арт. *Бондарства.*

**БАНДА́РЧЫК** Васіль Кірылавіч (н. 1.8.1920, в. Кірава Слуцкага р-на), беларускі сав. этнограф. Чл.-кар. АН БССР (1972), д-р гіст. навук (1965), праф. (1978). Засл. работнік культуры БССР (1980). Ганаровы член Польскага этнагр. т-ва (з 1970), член адміністрацыйнага савета Міжнар. т-ва этналогіі і фальклору Еўропы (з 1982). Чл. КПСС з 1951. Скончыў БДУ (1952). Удзельнік Вял. Айч. вайны. З 1957 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1969 дырэктар, з 1976 заг. аддзела этнаграфіі). У манаграфіях «Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.» (1964), «Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст.» (1970), «Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі» (1972) і «Развіццё беларускай этнаграфіі за гады Савецкай улады» (1979) даследуе асноўныя тэндэнцыі, кірункі і навуковыя плыні ў бел. этнаграфіі, дзейнасць арганізацый і вучоных, якія вывучалі этнаграфію і фальклор бел. народа. Вывучае сучасныя культурна-побытавыя працэсы, гісторыю матэрыяльнай і духоўнай культуры, вераванні і атэізм беларусаў, вусна-паэтычную творчасць. Адзін з аўтараў кнігі «Этнаграфія беларусаў» (1985), у якой разглядаецца этнагенез і этнічная гісторыя беларусаў. Пад яго рэдакцыяй і пры непасрэдным удзеле выдадзены кнігі «Этнічныя працэсы і вобраз жыцця» (1980), «Промыслы і рамёствы Беларусі» (1984).

*Тв.:* Николай Яковлевич Никифоровский. Мн., 1960 (разам з І. Г. Чыгрынавым); Еўдакім Рамапавіч Раманаў. Мн., 1961; А. К. Сержпутовский. Мн., 1966 (разам з А. С. Фядосікам); Беларуская этнаграфія і фальклор у працах славянскіх вучоных эпохі рамантызму. Мн., 1973 (разам з Л. А. Малаш).

*А. С. Фядосік.*



В. К. Бандарчык.

**БАНДУ́РКА,** народны струнны шчыпковы музычны інструмент; адзін з найбольш старажытных інструментаў. Формаю нагадваў лук: уяўляў сабой сагнутую ў дугу драўляную палку, канцы якой былі сцягнуты вяроўкай-струной. Адным канцом лук клаўся на ніжнія зубы таго, хто іграў; адкрыты рот выканаўцы служыў натуральным рэзанатарам. Ігралі на Б., пашчыпваючы вяроўку ўказальным пальцам правай рукі. Бытаванне Б. на Палессі адзначана ў канцы 19 — пач. 20 ст. Ч. Пяткевічам. *І. Дз. Назіна.*

**БА́НЦАРАЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, археалагічная культура плямён, якія ў 6—8 ст. жылі ў Верхнім Падняпроўі, Верхнім Панямонні, Верхнім і Сярэднім Падзвінні. Назва ад гарадзішча Банцараўшчына пад Мінскам. Насельніцтва займалася земля-

робствам, жывёлагадоўляй; паляванне і рыбалоўства мелі дапаможны характар; былі развіты здабыча і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная вытворчасць, ганчарства, апрацоўка дрэва, косці і інш. Асноўным тыпам пасялення былі адкрытыя паселішчы, размешчаныя на ўзвышшах у поймах рэк або мысападобных выступах надпоймавых тэрас. Многія паселішчы ўзніклі каля больш ранніх *гарадзішчаў*, якія насельніцтва дадаткова ўмацоўвала земляными валамі і ператварала ў гарадзішчы-сховішчы. Жытлы будавалі наземныя (мелі слупавую канструкцыю) і паўзямлянкавыя (пераважна зрубнай канструкцыі, ніжнія іх вянкі паглыбляліся ў зямлю ад 0,2 да 0,7—0,8 м). Жытлы мелі шматкамерную планіроўку, што сведчыла пра існаванне родавых адносін. Плошча жытлаў складала ад 7—9 да 18—20 $м^2$, унутры іх размяшчаліся печы-каменкі, радзей агнішчы. Агнішчы — вымасткі з дробных камянёў, укрытых пластам гліны,— мелі авальную або круглую форму памерам 1,7—1,8 м, размяшчаліся бліжэй да цэнтра жытла. Каля жытлаў размяшчаліся ямы-скляпы авальнай, прамавугольнай, яйцападобнай і круглай формы памерам 0,9—1,9 м, глыбінёй ад 0,4 да 1 м, у разрэзе большасць з іх чашападобныя. Насельніцтва вырабляла слабапрафіляваныя пласкадонныя ляпныя гаршкі, якія мелі крыху адагнуты венчык, слабавыражаную шыйку, моцна апушчаны плячук, злёгку пукатае тулава. Трапляюцца круглабокія, цыліндрычныя і міскападобныя пасудзіны. На Падзвінні было шмат слоікападобных пасудзін. У гліну дадаваліся жарства і буйназярністы пясок, на поўдні Б. к.— шамот (тоўчаныя чарапкі). *А. Р. Мітрафанаў.*

**БАРАБА́Н** (магчыма цюркс.), народны мембранны музычны інструмент; цыліндрычны драўляны або металічны корпус («каробка») розных памераў, на які з абодвух бакоў нацягнута скура (сабакі, цяляці, казляняці). Гук некрэсленай вышыні здабываецца ўдарам драўлянай калатушкі. У сучаснай нар. музычнай практыцы Б. ужываецца пераважна разам з меднымі талеркамі (турэцкі барабан) або як састаўная частка ўдарнай устаноўкі, што ўключае вялікі і малы Б., «калоткі» — драўляны брусок, па якім б'юць доўгімі палачкамі, і нажную педаль (зафіксаваны ў Нясвіжскім, Баранавіцкім, Навагрудскім і інш. р-нах). Найбольш ранняе сведчанне пра Б. на Беларусі адносіцца да 12 ст. (шахматная фігурка ў выглядзе барабаншчыка з Ваўкавыска). Інструмент часта ўпамінаецца ў стараж.-рускіх рукапісных крыніцах як ваенны сігнал і шумавы інструмент. У 17—18 ст.— абавязковая прыналежнасць бел. рамесніцкіх цэхаў, выкарыстоўваўся ў час урачыстых і жалобных працэсій, абароны гарадоў. У наш час распаўсюджаны па ўсёй Беларусі і ўваходзіць у склад нар. інструментальных ансамбляў, якія выконваюць танцавальную музыку і вясельныя маршы. У вясковым побыце беларусаў тэрмін «Б.» часта ўжываецца і для абазначэння *бубна*. *І. Дз. Назіна.*

**«БАРАДА́»**, невялікі сноп з апошніх каласоў; рытуальны элемент дажынкавага абраду. Лакальная назва «бародка». «Б.» жнеі ўпрыгожвалі стужкамі, кветкамі, спявалі ёй песні, гулялі каля яе і неслі ў хату гаспадару, які ставіў яе на покуці і захоўваў цэлы год. Пры дапамозе каласоў з «Б.» на Палессі «вылівалі Волас» — магічна вадзілі імі па шчацэ чалавека, у якога балеў зуб, лілі цёплую ваду на шчаку і каласы, шэпчучы замову: «Волас, Волас, выйдзі на часты колас...». *А. Ю. Лозка.*

**«БАРАДА́ЙКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Выконваўся ранняй вясной на вуліцы або на падворку. Усе выканаўцы браліся за рукі і ланцужком хутка прабягалі скрозь своеасаблівыя «вароты» — над злучанымі і паднятымі ўгору рукамі хлопца і дзяўчыны, якія стаялі на адным месцы. Часам танцоры беглі так хутка, што ланцужок разрываўся і тыя, хто адарваўся ад яго, каціліся кулём. Выканаўцы, якія стаялі на месцы, час ад часу апускалі рукі перад кім-небудзь з танцораў і такім чынам выхоплівалі з ланцужка выканаўцаў, якія павінны былі стаць з аднаго ці другога боку «варот». У канцы танца ўсе хлопцы і дзяўчаты, трымаючыся за рукі, хутка круціліся ў парах на адным месцы. У некаторых вёсках «Б.» меў нязначныя адрозненні, часам бытаваў у выглядзе гульні. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Іванаўскім р-не Брэсцкай вобласці. *А. Л. Варламаў.*

**БАРАЗНЯ́К**, земляробчая прылада для пракладкі міжрадковых разор і акучвання бульбы; тое, што і *акучнік*.



Турэцкі **барабан**.



Музыка грае на **бандурцы**.

**БА́РАК**, прыстасаванне для прыпрэжкі каня ў дапамогу каранніку; тое, што і *ворчык*.

**БАРА́Н**, 1) вялікая рыбацкая лодка на Палессі. 2) Прылада для сушкі сена на Палессі. 3) Двухручны рубанак для стругання дошак.

**БАРАНА́**, земляробчая прылада для рыхлення (баранавання) глебы. Паводле канструкцыі і гаспадарчага прызначэння вылучаюць некалькі тыпаў традыцыйных Б.: *вершаліна, смык*, плеценая (вязаная) і брусковая (рамная). Усе тыпы Б. да канца 19 ст. рабілі з дрэва. Найбольш распаўсюджанай была плеценая Б., што выкарыстоўвалася звычайна на стараворных землях. Яна мела дугападобную форму, якую ёй надаваў перыферыйны самайлук (лука, каблук); 4—6 радоў роўных прутоў — па тры ў кожным радзе — утваралі рашотчаты каркас; на скрыжаванні прутоў замацоўвалі з дапамогай плеценых вітак-кольцаў дубовыя (радзей

кляновыя, грабавыя) зубы (кляцы). Колькасць зубоў ад 16 да 25; у Папямонні вядомы на 30 і 35 зубоў. Аснову брусковай Б. складала брусковая рашотка, у якую набівалі драўляныя, а з канца 19 ст. жалезныя зубы. Форма рашоткі і колькасць зубоў вагаліся ў залежнасці ад экалагічных умоў і мясцовай вытворчай традыцыі. Вядомы падоўжна-брусковыя і папярочна-брусковыя Б. Брусковая Б. была найбольш пашырана на ПнУ Беларусі, дзе змяніла смык-сукаватку. Традыцыйныя Б. выкарыстоўвалі ў практычнай рабоце з коннай (хамутова-пастронкавай), а на ПдЗ Беларусі часам і з валовай (ярэмнай) запрэжкай. З пач. 20 ст. ў нар. гаспадарцы пашыраны жалезныя Б. фабрычнай вытворчасці. Традыцыйныя плеценыя і брусковыя Б. эпізадычна захаваліся ў асабістых гаспадарках да нашага часу. *В. С. Цітоў.*

**БАРАНІЦА,** аўчыннае пакрывала, пацягнутае сукном, для ахутвання ног у санях. Пашырана пераважна на Палессі.





**Барана** плеценая.



**Барана** брусковая з драўлянымі зубамі. Рэчыцкі краязнаўчы музей.

**Барана** брусковая з жалезнымі зубамі. Вёска Жорнаўка Бярэзінскага раёна.



Рады-**барана.** Вёска Морач Капыльскага раёна.

**БАРАЦЬБА́ «ДА КРЫ́ЖА»,** народная гульня. Нагадвае вольную барацьбу. Барцам дазваляецца штурхаць, даваць падножкі, хапаць за ногі. Перамагае той, хто прыцісне праціўніка спіною да зямлі і ўтрымае яго рукі, разведзеныя ў бокі.

**БАРАЦЬБА́ «НА КРЫЖЫ́»,** народная гульня. Нагадвае рускую барацьбу ў абхват. Праціўнікі абхватваюць адзін аднаго, і той, хто паваліць праціўніка на зямлю,— пераможца. Падножкі, штуршкі не дазваляюцца.

**БАРБА́РЫ,** канаты з *віц,* з прымацаванай на канцы завостранай палкай. Прывязаныя па баках плыта, Б. служылі для запавольвання яго ходу.

**БА́РЖА** (франц. barge), несамаходнае пласкадоннае грузавое судна без аснасткі з невялікай асадкай. Перацягвалася буксірам. На Беларусі з'явілася ў канцы 19 ст. і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі стала асноўным тыпам рачнога грузавога транспарту (пастунова драўляныя судны заменены металічнымі). У наш час Б. пераважна сухагрузавыя (самаходныя і несамаходныя) грузападымальнасцю 100—700 т выкарыстоўваюцца на ўсіх буйных рэках рэспублікі.

**БА́РКА** (італ. barca), 1) драўлянае пласкадоннае судна для сплаву грузаў па рэках. Вядома на рэках Беларусі з 17 ст. і прымянялася ў басейне Дняпра і Прыпяці да пач. 20 ст. Падзяляліся на сплаўныя і хадавыя. Сплаўныя Б. будавалі толькі на адзін рэйс уніз па цячэнні ракі, пасля іх разбіралі і прадавалі на будаўнічы матэрыял ці дровы. Іх рабілі без ветразя, палубы і даху, з закругленымі носам і кармой, крыху нахіленымі бакамі. Памеры Б. розныя — у залежнасці ад глыбіні і шырыні рачнога фарватэру. Па Дняпры да Чорнага мора сплаўлялі вялікія Б.: даўж. 42—53 м, шыр. 15—17 м, грузападымальнасцю 320—800 т. Палескія (пінскія) Б. ў адрозненне ад сплаўных дняпроўскіх былі хадавымі і служылі некалькі навігацый (да 8 гадоў): хадзілі ўніз і ўверх па Прыпяці, Піне, Гарыні, Ясельдзе, Шчары, Дняпроўска-Бугскім і Агінскім каналах, нават заходзілі ў Нёман. Б. пінскай канструкцыі (чайка, паўбарка) мела дах, ветразь і параўнальна невял. памеры: даўж. 19—40 м, шыр. 2,8—5,6 м, грузападымальнасць ад 20—40 да 80 т. Акрамя беларускіх, па Дняпры хадзілі таксама бранскія і любецкія (з г. Любеч на Чарнігаўшчыне) Б. 2) Агульная назва ўсіх сплаўных пласкадонных рачных суднаў у 19 ст. *Н. І. Буракоўская.*

**БАРОЎКІ,** мясцовая парода лясных пчол. Вызначаюцца працавітасцю, устойлівасцю супраць захворванняў і неспрыяльных умоў надвор'я. Захаваліся на Палессі. Падлягаюць ахове.

**БА́РСАЎ** Мікалай Паўлавіч [27.4(9.5).1839, г. Болхаў Арлоўскай вобл.— 23.11(5.12).1889], рускі гісторык. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1861). Працаваў настаўнікам гісторыі і геаграфіі ў Віленскай навучальнай акрузе (1864—69), на кафедры рускай гісторыі Пецярбургскага ун-та (1869—71). З 1873 чытаў курс рускай гісторыі ў Варшаўскім ун-це (з 1888 прафесар). Асноўная навуковая праца — «Нарысы рускай гістарычнай геаграфіі» (Варшава, 1873; 2 выд. 1885), у якой змешчаны фактычны і параўнальны матэрыял па стараж. геаграфіі ўсх.-слав. зямель, у т. л. і беларускіх, у 9—14 ст. Фактычна гэта была першая спроба канкрэтнай лакалізацыі на карце стараж.-рускіх паліт. падзей, межаў

княстваў, дзяржаў, гісторыка-геагр. назваў плямён, гарадоў, населішчаў. Значную ўвагу звярнуў на стараж. геаграфію земель і насельніцтва Беларусі (плямён палачан, дрыгавічоў, радзімічаў і інш.).

**БА́РТА**, адмысловая сякера з тонкім шырокім лязом, вузкім абухам і доўгім тапарышчам для выдзёўбвання *борцяў*. Лакальныя назвы барда, серка. Выраблялі Б. выключна мясцовыя кавалі з лепшых гатункаў крычнага (гл. ў арт. *Кавальства)* жалеза і сталі.

**БАРТАШЭ́ВІЧ** Галіна Аляксандраўна (н. 18.6.1932, г. Слуцк), беларускі сав. фалькларыст. Канд. філалагічных навук (1975). Скончыла БДУ (1956). З 1957 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1976 старшы навуковы супрацоўнік). Даследуе праблемы бел. фалькларыстыкі, фальклор Вял. Айч. вайны, бел. абрады, дзіцячы і сучасны фальклор. Складальнік кніг «Песні савецкага часу» (1970), «Дзіцячы фальклор» (1972), сааўтар працы «Сучасны стан беларускай народнай паэтычнай творчасці» (1973). Аўтар манаграфій «Вершаваныя жанры беларускага дзіцячага фальклору» (1976), «Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя» (1985); удзельнічала ў складанні кніг «Беларускія народныя казкі» (1981, 2 выд. 1986); «Чарадзейныя казкі» (ч. 1—2, 1973—78), «Веснавыя песні» (1979), «Валачобныя песні» (1980) са зводу «Беларуская народная творчасць» (за ўдзел у складанні Дзярж. прэмія БССР 1986).

**БАРЦЯВІ́К**, распаўсюджаная сярод бортнікаў назва бурага мядзведзя, які знішчаў борці і калодных вуллі. Лакальная назва бортнік. У мінулым галоўны вораг пчаляроў.

**БАРШЧЭ́ЎСКІ** Ян [крыптанімы: J. B.; Jan B.; 1974, паводле інш. крыніц 1790 ці 1796, в. Мурагі Расонскага р-на — 28.2(12.3).1851], бел. і польскі пісьменнік, этнограф і фалькларыст. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай калегіі. Падарожнічаў па Беларусі, вывучаў побыт і культуру бел. сялян, апісваў курганы і гарадзішчы, запісваў фальклорныя творы, абрады, паданні, легенды, апавяданні, якія лічыў «гісторыяй гэтай зямлі, характару і пачуццяў беларусаў». Асабліва поўна апісаў купальскія абрады, абрады радаўніцы, некаторыя сямейныя звычаі, вераванні. Быт і культура беларусаў шырока адлюстраваны ў 4-томным зб. «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844—46), у «Нарысе паўночнай Беларусі» («Rocznik literacki» — «Штогоднік літаратурны», 1843), ва «Успамінах з наведвання радзімых старон» (там жа, 1844). У 1820—40-я г. жыў у Пецярбургу, дзе зблізіўся з А. Міцкевічам і Т. Шаўчэнкам; у 1840—44 выдаваў альманах «Niezabudka» («Незабудка»), арганізаваў літаратурны гурток, які аб'ядноўваў выхадцаў з Беларусі.

*В. К. Бандарчык, Г. А. Каханоўскі.*

**БАРЫ́Л**, барыла, даўняя адзінка вымярэння вадкасці, роўная 20 *гарцам* (каля 60 л).

**БАРЫ́ЛКА**, бандарны выраб; двухдонная бочачка на 5—10 л. Як і *біклага*, прызначалася для пераносу вады ў «рабочы вугал» (на поле, сенажаць, лесасеку). Выкарыстоўвалася і для захавання розных напіткаў. Звычайна рабілася з дубовых клёпак, даўжэйшых за дыяметр дна, сцягнутых па краях некалькімі парамі абручоў, пасярэдзіне клёпак былі 1—2 адтуліны, якія затыкаліся коркамі.

**«БА́РЫНЯ»**, імправізаваны танец, роднасны рускаму і ўкр. харэаграфічнаму ўзору. Вызначаецца разнастайнасцю танцавальных форм, дзе скокі навыперадкі паміж жанчынай і мужчынам або паміж двума мужчынамі ці дзвюма жанчынамі пераходзяць у агульны танец. Часта ў набор танцавальных рухаў (дробаты, хлапушкі, прысядкі) уваходзяць элементы інш. нар. танцаў (напр., традыцыйнага танца «Жабка»). Танец суправаджаецца прыпеўкамі. «Б.» распаўсюджана на ўсёй Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*



**Барана** раскладная. Вёска Маскалішкі Пастаўскага раёна.



Ян Баршчэўскі.



**Барысаў камень**, які знаходзіўся каля былой вёскі Накоўнікі Верхнядзвінскага раёна.



Барылка.

**БАРЫ́С І ГЛЕБ**, дзень у *народным календары* (адзначаўся 24 ліпеня с. ст.), у які забаранялася выконваць цяжкія работы: «на Барыса за серп і касу не бярыся». Лічылася, што парушальнікам гэтай забароны пагражала калецтва, а жывёле, якая ела скошанае ў гэты дзень сена,— хвароба і нездаровы прыплод; скіданыя ў гэты дзень стагі маглі быць спалены маланкай, тое ж чакала цупю ці гумно са звезеным у гэты дзень хлебам. У дзень Б. і Г. асцерагаліся дажджу з навальніцай, гэты ж дзень лічыўся апошнім днём купання.

*У. А. Васілевіч.*

**БАРЫ́САВЫ КАМЯНІ́**, манументальныя помнікі *эпіграфікі* 12 ст. на тэр. Беларусі; 7 велізарных валуноў з высечанымі на іх крыжамі і надпісамі ў выглядзе грэчаскай формулы «Господи помози рабу своему...». Вядома 5 камянёў у рэчышчы Зах. Дзвіны — па

аднаму каля в. Падкасцельцы за 5 км ад Полацка і каля г. п. Друя, тры каля г. Дзісна (2 каля былой в. Балоткі, адзін каля былой в. Накоўнікі); 2 на сушы — каля в. Дзятлаўка Аршанскага р-на (т. зв. Рагвалодаў камень) і каля в. Высокі Гарадзец Талачынскага р-на. Захаваліся тры камяні: адзін з дзісенскіх камянёў (з надпісам «Сулиборь хрьст»), што ў 1887—88 падняты з дна ракі і адпраўлены ў Маскву (знаходзіцца ў музеі-запаведніку «Каломенскае»); камень з в. Падкасцельцы, што ў 1981 падняты і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора ў Полацку; камень, што ў Друі. Астатнія помнікі разбураны.

Да прыняцця хрысціянства (10 ст.) камяні былі язычніцкімі фетышамі. Неўраджаі і голад у пач. 12 ст. на Падзвінні прывялі да адыходу ад хрысціянства, вяртання да язычніцкіх вераванняў і шанавання камянёў, каля якіх калісьці маліліся аб ураджаі. Полацкі князь Барыс (правіў у 1127—29), які быў вельмі набожны, для барацьбы з язычніцкімі культамі загадаў высякаць на камянях крыжы, па



**Барысаў камень** каля Сафійскага сабора ў Полацку.

форме падобныя на крыж з «Галгофай», што сімвалізавала пераўтварэнне язычніцкіх капішчаў у хрысціянскія алтары. З язычніцкім аграрна-магічным веснавым святам урадлівасці звязаны хрысціянскі культ святых Барыса і Глеба, што сімвалізаваў свята першых усходаў яравых (прыняты ў 1072, канчаткова ўстаноўлены ў 1115). Каб сінтэзаваць язычніцкія і хрысціянскія вераванні, узвысіць першых страж.-рускіх святых, а таксама ўвекавечыць сваё імя, князь Барыс загадаў высякаць хрысціянскія надпісы з імем Барыса. Яно згадваецца на 6 камянях (лічыцца, што надпісы высечаны ў маі 1128, у дні барысаглебскіх свят). На Рагвалодавым (Барысаглебскім) камяні высечана імя Васіля (Рагвалода), сына Барыса «...в лето 6679 (1171) мая в 7 день доснен крест сий. Господи! Помози рабу своему Василию в крещении, имем Рогволоду, сыну Борисову».

У народзе камяні былі вядомы пад назвамі Барыс, Барыс-Хлебнік, Барыс-Глеб, Барысаглебскі, Пісар, Пісанік і інш. Захавалася шмат паданняў пра камяні: на дзісенскіх надпісы нібыта высечаны залатымі літарамі; на камені каля в. Падкасцельцы быццам бы часта з'яўляецца бохан хлеба. Асабліва шанавалі камяні на сушы. У в. Высокі Гарадзец у дзень святых Барыса і Глеба (2 мая) да каменя, над якім пабудавана капліца, і ручая пад назвай Барыс хадзілі хрэсным ходам. Камень называлі «Кравец» або «Сцяпан», з ім звязана паданне, нібыта пад каменем жыў кравец, які добра шыў адзенне, пакуль адзін чалавек не пасмяяўся з яго, заказаўшы яму шыць «ні тое, ні сёе». Захавалася шмат паданняў пра Рагвалодаў камень. Згодна аднаму з іх — гэта акамянелая жывёліна, калісьці камень быў на чатырох нагах і меў галаву. Мясцовы млынар адсек яму галаву і перарабіў яе на жорны, якія самі змалоліся ў пясок і перамалолі ўсё багацце і сям'ю млынара. Паводле другога падання пад каменем знаходзілася магіла князя Васіля (Рагвалода), які загінуў тут у бітве. Паводле трэцяга — на гэтым месцы адбылася бітва паміж Рагвалодам і друцкімі князямі. Рагвалод перамог і ў гонар перамогі загадаў высечы на камені крыж з надпісамі. Паводле чацвёртага падання Рагвалод, вяртаючыся з паходу, адпачываў з дружынай і ўбачыў тут свайго бацькунябожчыка Барыса з братам Глебам. У гонар гэтага быў пастаўлены каменьпомнік і названы Барысаглебскім.

*Л. У. Дучыц.*

**БАРЫЧЭ́ЎСКІ** (Б а р ы ч э ў с к і - Т а р н а в а) Іван Пятровіч [1810, Мінская губ.— 24.7(5.8).1887], бел. гісторык, этнограф, археограф, фалькларыст, перакладчык. Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1829), Кіеўскую духоўную акадэмію (1833). З 1835 служыў у розных дэпартаментах, з 1841 у Галоўным упраўленні шляхоў зносін, дзе з 1860 быў дырэктарам канцылярыі. У час. «Санкт-Петербургские ведомости», «Маяк», «Журнал Министерства народного просвещения», «Северное обозрение» і інш. апублікаваў артыкулы «Даследаванне пра паходжанне, назву і мову літоўскага народа», «Урывак з літоўска-рускай гісторыі», «Камяні літоўскіх багінь», «Пра рускі летапіс у Літве, названы «Хронікай Быхаўца», «Жыццеапісанне Касцюшкі» і інш. Запісваў фальклор паўд. і зах. славян («Аповесці і паданні народаў славянскага племя», ч. 1—2, 1840—41, «Народныя славянскія апавяданні», 1844). Аўтар працы «Праваслаўе і руская народнасць у Літве» (1851). Удзельнічаў у зборы матэрыялаў і падрыхтоўцы выданняў Археаграфічнай камісіі. Яго зборнікі ўпершыню пазнаёмілі рускага чытача са слав. нар. паэзіяй. Вывучаў бел.-літоўскае моўнае і этнагр. памежжа. Архіў Б. не знойдзены. *Г. А. Каханоўскі.*

**БАРЫ́Ш**, пачастунак пасля куплі-продажу, заключэння гандлёвай здзелкі.

**БАСМАНЫ́**, 1) б а с м а н і к і, прэсныя коржыкі без солі, памінальная страва, з якой пачыналі памінальную вячэру (еў кожны па крошцы). Б. пяклі на блясце ці проста на пліце. Былі вядомы ў некаторых раёнах Зах. Палесся. У наш час у гэтым рэгіёне Б. называюць аладкі з мукі або таркаванай бульбы. 2) Бульбяныя аладкі ці піражкі з дамешкам мукі (гл. *Куракі).*



Басэтля.

**БА́СТРЫ**, пазашлюбныя дзеці; у эпоху сярэднявечча і пазней — дзеці ад неасвячоных царквою шлюбаў. Лакальныя назвы байструкі, банкарты, букарты, крапівнікі. Нараджэнне Б. ў класава-антаганістычным грамадстве лічылася антысацыяльнай з'явай. Згодна хрысціянскай маралі, нормаў звычаёвага права і дзярж. кодэксаў феадальнага права (Статуты Вял. кн. Літоўскага 1529, 1566, 1588), яны не мелі амаль ніякіх саслоўных і сацыяльных правоў, уваходзілі ў катэгорыю нявольных сялян (чэлядзь нявольная); у гарадах служылі наглядчыкамі, прыбіральшчыкамі смецця, гною, ка́тамі, санітарамі ў шпіталях; складалі карныя і спецыяльныя атрады ў войску. Супрацьпастаўлене Б. грамадству вымушала іх займацца зладзействам, разбоем, жабрацтвам і інш. Поўныя ці абмежа-





Магілёўская **батлейка.** Батлеечныя лялькі: цар Ірад, Антоніха, Антон з казой.

ваныя правы маглі атрымаць толькі ў выпадку іх афіцыйнага ўсынаўлення ці за выдатныя заслугі перад грамадствам, феадалам і інш. *І. У. Чаквін.*

**БАСЭТЛЯ** (польск. basetla ад ням. Bassetl), народны струнны смычковы музычны інструмент нізкага рэгістру, блізкі да віяланчэлі і кантрабаса. Лакальныя назвы басоля, бас, кантрабас. Самаробныя Б. існуюць розных памераў, маюць 3—4 жыльныя або металічныя струны, настроеныя па квінтах, часам 4 ладавыя адзнакі на грыфе. Вядома на Беларусі з 18 ст. Была пашырана ў некаторых раёнах Гродзенскай, Мінскай і Брэсцкай абл., пераважна ў гарадках і буйных сёлах. Выкарыстоўвалася ў розных па складу нар. інструментальных ансамблях-«капэлях» (найчасцей са скрыпкай) пры выкананні танцаў, вясельных маршаў; функцыя Б. абмяжоўваецца басовай рытмічнай і гарманічнай апорай («уторай», «басаваннем», «дапамогай»). У наш час сустракаецца даволі рэдка. У Рэчы Паспалітай Б. называлася віяланчэль; у бел. дакументах 18 ст. тэрмін ужываўся ў такім жа значэнні. *І. Дз. Назіна.*

**БАТЛЕ́ЙКА** (ад Betleem польская назва г. Віфлеема, паводле біблейскага міфа — месца нараджэння Хрыста), бел. народны лялечны тэатр. Вядомы з 16 ст. Тэатр батлейкавага тыпу ў розных рэгіёнах Беларусі меў назвы



*яселка,* батляемка, остлейка, *жлоб,* вяртэп. Падобны да Б. тэатр апісвае Герадот. Блізкія да Б. укр. вяртэп (найбольш пашыраны ў 18—19 ст.), польская шопка (вядомая з 15 ст.).

Для паказу Б. рабілі з дрэва скрынкі розных памераў, звычайна ў выглядзе хаткі (у батлеечніка Патупчыка з Докшыц 1,5×1,5 м) ці царквы, з гарызантальнымі перагародкамі (ярусамі-сцэнамі). Кожная сцэна-ярус мела прорэзі для ваджэння лялек. Сцэну, што нагадвала балкон, на якім адбывалася дзеянне, аздаблялі тканінай, паперай, геаметрычнымі фігурамі з тоненькіх палачак. На задніку сцэны малявалі абразы, зоркі, крыжы, вокны, лялечныя кампазіцыі на біблейскі сюжэт і інш. У скрынцы, падобнай да царквы, рабілі купалападобны дах з крыжам. Скрынка закрывалася дзверцамі. Неабходнасць у шмат'яруснай будове скрынак адпала тады, калі паказы Б. набылі свецкі характар. Лялькі-персанажы рабіліся з дрэва, каляровай тканіны; валасы, бровы, вусы — з лёну ці аўчыны; вопратку шылі з тканіны. Лялькі мацаваліся на драўляным ці металічным шпяні, пры дапамозе якога батлеечнік вадзіў іх па прорэзях у ярусе-сцэне. Вядомы таксама Б. з лялькамі-марыянеткамі на нітках з верхнім прынцыпам ваджэння, пальчатачныя лялькі. Паказы суправаджаліся словамі і музыкай, сцэна і лялькі асвятляліся свечкамі. Батлеечнік знаходзіўся за скрынкай, адтуль вадзіў лялькі, гаварыў тэкст, падрабляючы голас персанажа. Часта ён адзін спалучаў функцыі выканаўцы, драматурга, мастака, рэжысёра, музыканта, іншы раз быў і своеасаблівым канферансье (звяртаўся непасрэдна да гледача, характарызуючы ад свайго імя той ці іншы персанаж). Звычайна батлеечнікі былі таленавітымі акцёрамі-самародкамі.

Рэпертуар Б. багаты жыццёвым і фальклорным матэрыялам, незвычайным сюжэтам, вялікай колькасцю персанажаў. Паказ складаўся звычайна з дзвюх частак: кананічнай (рэлігійнай) і свецкай (народна-бытавой).



Кананічны сюжэт разыгрываўся на верхнім, свецкі — на ніжнім ярусе-сцэне. Найбольшай папулярнасцю карыстаўся свецкі рэпертуар з камічнымі сцэнамі, нар. песнямі і танцамі. Некаторыя тэкставыя варыянты батлейкавых паказаў запісаны ў 2-й пал. 19 ст. Па паходжанню і тэматычна-стылявых асаблівасцях яны дзеляцца на сцэнкі і песні рэлігійнага зместу і містэрыю (драма «Цар Ірад») і нар. інтэрмедыйныя сцэнкі. Першыя дзве ўзніклі пад уплывам адпаведнай пісьмовай літаратуры, нар. жанравыя сцэны маюць выразныя рысы фальклору. Гэтая частка рэпертуару Б. яскрава перадае светапогляд, адносіны яе стваральнікаў — працоўных мас — да прадстаўнікоў эксплуататарскіх класаў. Многія сцэны маюць вострасатырычны характар, у іх высмейваюцца такія сацыяльныя тыпы,

як доктар-шарлатан, карчмар, фанабэрысты франт-шляхціц і інш. Сатырычным вобразам проціпастаўлены селянін — галоўны герой папулярных сцэн «Мацей і доктар» і «Антон з казой і Антоніха». Найбольш папулярныя ў рэпертуары Б. нар. сцэны: «Вольскі — купец польскі», «Ірадыяда, Рыгор і франт», «Волжскі дваранін і Ванька», «Барыня і доктар», «Цыган і цыганка», «Яўрэй і казак», «Скамарох з мядзведзем» і інш. Батлейкавы паказ меў сінтэтычны характар, што ў значнай ступені абумоўлівалася жанрава-стылістычнай разнастайнасцю рэпертуару. Песня, танец, дыялог, маналог — асноўныя кампаненты паказаў Б., у якіх выяўляўся характар сродкаў сцэнічнай выразнасці. Вядомы батлеечнікі Н. Дыла і С. Трывога са Слуцка, В. Бутома з Магілёва, Муравіцкі і Дамбіцкі з Мінска, М. Барашка з Міра і І. Моніч з в. Краснае Навагрудскага пав., Баранкоўскі і Бурдун з Дзятлава, Юр'еў з в. Быч Быхаўскага пав. У канцы 19— пач. 20 ст. асобныя сцэны Б. выконвалі жывыя акцёры. Гэты від прадстаўленняў называўся батлея або жывая батлейка. Заняпад Б. пачаўся ў 2-й пал. 19 ст. У 1915 у Мінску наладжаны спецыяльныя паказы Б., у 1923 І. Барашка дэманстраваў мастацтва Б. ў Маскве на Усерасійскай с.-г. саматужна-прамысловай выстаўцы, у 1927 батлеечнікі давалі прадстаўленне ў Мінску ў Бел. дзярж. музеі. Апошнія зафіксаваныя паказы Б. адбыліся ў 1962 і 1963 у в. Бялевічы Слуцкага р-на.

*М. А. Каладзінскі.*



**Батлейка.** Ельнінскі вяртэп. 18— пач. 19 ст.

**БАТО́Г,** пуга, сплеценая з дубцоў, бізун або палка, што прымяняліся для цялеснай кары. Лакальная назва батуг.

**БАЎКУ́Н,** род вупражы; *ярмо* на аднаго вала, што хадзіў у аглабельнай ці пастронкавай запрэжцы. Лакальная назва ярмец. Меў асаблівасці ў вонкавай форме і наяўнасці састаўных элементаў — лукі, Г-падобнай кульбакі, штыра (заноза), кольцаў для пастронкаў (калачы, гужавы, віткі). Быў пашыраны ў Паўд.-Зах. і Цэнтр. Беларусі.



**Батлейка.**

**БАЎТУ́ХА,** старадаўняя страва. У кіпень сыпалі (увесь час памешваючы) ячную або грэцкую, жытнюю, аўсяную ці пшанічную муку, дабаўлялі алей ці тоўчанае надпражанае льняное семя, падсмажанае з цыбуляй сала. Лакальная назва калатуха. Летам прыпраўлялі пер'ем цыбулі. Пашырана была на Палессі, у паўн.-ўсх. і паўд.-ўсх. раёнах Беларусі. У наш час сустракаецца рэдка.

**БАХІ́ЛЫ,** саматробныя глыбокія гумавыя галёшы на валёнкі і буркі. Бытавалі ў 1930—50-я г.

**БАХТАРМА́,** мяздра, ніжняя мясістая паверхня скуры. Пра яе апрацоўку гл. ў арт. *Гарбарства.*

**БАЦВІ́ННЕ,** традыцыйная страва. Нарэзанае лісце з маладых буракоў заліваюць вадой, часам дабаўляюць хлебны квас, ячную крупу або нарэзаную бульбу, часам засквараюць салам. Вараць на невялікім агні. Перад падачай на стол дадаюць смятану. Страва вядома па ўсёй Беларусі.

**БА́ЦЬКА,** мужчына ў адносінах да сваіх дзяцей.

**БА́ЦЬКАЎШЧЫНА,** 1) родны куток, месца, дзе нарадзіўся хто-небудзь. 2) Набытак бацькі, спадчынная маёмасць.

**«БАЦЯ́Н»,** імправізаваны танец-гульня. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умераны. Выконваўся ў час калядных ігрышчаў жанчынамі і мужчынамі. Выканаўцу пераапраналі ў «бацяна» (бусла): давалі ў рукі качаргу-дзюбу, накрывалі посцілкай; ён падскокваў на адной назе, адначасова размахваў сагнутымі ў локцях рукамі, што нагадвала рухі бусла. Вядомы таксама «Б.» як дзіцячая гульня з прыпеўкай: «Бацян, бацян даўганосы, // Прынясе нам боты, а сам босы». У некаторых варыянтах выконвацца без пераапранання, тэкст прыпеўкі зменены: «Бацян кле-кле,// Твая матка ў пекле, // Стаіць на вуліцы // У чырвонай спадніцы». Часам, каб узмацніць уражанне, выканаўца станавіўся на хадулі і рабіў тыя ж самыя рухі, як і без хадуляў, што патрабавала асаблівага майстэрства. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Віцебскай вобласці.

*С. У. Клімовіч.*

**БАЯ́РЫ,** у 9—13 ст. агульная назва групы ваеннаслужылых людзей з княжацкай дружыны. Этымалогія слова «Б». да канца не высветлена: магчыма ад «бой» (ваяўнік) ці «болій» (вялікі), ад цюркскага boila, bojar (гаспадар, багаты муж, вяльможа), ад скандынаўскага boljarl (княжы муж), ад ісландскага boearmen (знатны чалавек) і інш. Узнікненне Б. на ўсх.-слав. землях адносіцца да часоў, калі на службу да стараж.-рускіх князёў наймаліся прышлыя варажскія ваенныя атрады. Паступова назва замацавалася ў якасці

вызначэння вярхоў княжацкай дружыны (мясцовых і прышлых).

У 14—16 ст. на землях Беларусі, што ўвайшлі ў склад Вял. кн. Літоўскага, Б.— асноўная маса феадалаў (ужываліся тэрміны паны-баяры, баяры-шляхта), а таксама ваеннаслужылыя людзі (баяры панцырныя, конныя, путныя). Паводле сацыяльна-эканам. становішча заможныя Б. набліжаліся да паноў і князёў, ніжэйшыя слаі баярства мала чым адрозніваліся ад сялян. Да канца 16 ст. большасць Б. на Беларусі былі праваслаўнай веры, карысталіся бел. мовай, называлі сябе русінамі ці літвінамі. У 16—17 ст. ішла далейшая дыферэнцыяцыя Б. на слаюўныя групы. Пасля правядзення зямельнай валочнай памеры частка іх пастулова пераведзена ў разрад феадальна-залежнага насельніцтва, хоць захавала назву Б., частка атрымала ад вялікіх князёў прывілеі і дарчыя граматы і ўвайшла ў шляхецкае саслоўе (гл. *Шляхта;* у яго не ўвайшла значная частка былых ваенных слуг). На працягу 18 ст. большасць Б. пераведзена на становішча аброчных і цяглых сялян. Сялілі Б. часта цэлымі вёскамі, аднайменныя назвы якіх (Баяры) захаваліся ў тапаніміцы Беларусі і ў наш час. *І. У. Чаквін.*

**БЕ́ДНАЯ КУЦЦЯ́,** гл. ў арт. *Куцця.*

**«БЕ́ЖАНЬКА»,** гарадскі бытавы танец. Лакальная назва «Бежанка». Выконваецца парамі, удзельнікі бяруцца накрыж рукамі і хутка перабягаюць уперад, потым, павярнуўшыся,— назад. Другая фігура «Б.» — вярчэнне пар у польцы-вальсе (у некаторых рэгіёнах бытуе як самастойны танец — «полька-Б.»). Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Пастаўскім і Глыбоцкім р-нах Віцебскай вобл., Шчучынскім і Ваўкавыскім р-нах Гродзенскай вобласці. *А. Л. Варламаў.*

**БЕЗ-КАРНІЛО́ВІЧ** Міхаіл Восіпавіч [29.9(10.10).1796, Магілёўская губ.— 7(19).1.1862], беларускі гісторык, краязнавец і этнограф, вайсковы тапограф, статыстык, генерал-маёр рускай арміі. Пад яго кіраўніцтвам у 1831—47 праводзілася тапаграфічнае і вайскова-статыстычнае вывучэнне Мінскай, Наўгародскай, Віцебскай, Валынскай губ. і Беластоцкай акругі. У час знаходжання на Беларусі збіраў гіст. і этнагр. матэрыялы, на падставе якіх выдаў кнігу «Гістарычныя звесткі пра выдатныя месцы на Беларусі з дадаткам іншых звестак, якія да яе ж адносяцца» (Спб., 1855), у якой разглядаў таксама пытанні этнічнай тэрыторыі, побыту і культуры беларусаў. Тэрыторыю Беларусі абмяжоўваў Віцебскай і Магілёўскай губ., астатнія землі называў Літвой. Беларусамі лічыў толькі «нашчадкаў крывічоў», разам з тым гаварыў пра беларусаў як пра асобны народ і ставіў іх у адзін рад з суседнімі народамі. Даў даволі аб'ектыўную характарыстыку бел. народа, апісаў яго цяжкае жыццё, аднак як памешчык-прыгоннік для паляпшэння сялянскай гаспадаркі прапаноўваў ссяляць сялян у вялікія вёскі, захоўваць патрыярхальныя сем'і і нават злучаць у адну сям'ю (адзін двор) невялікія сем'і суседзяў. Асобныя раздзелы кнігі прысвяціў апісанню нар. абрадаў, звычаяў, вытворчай дзейнасці, нар. метэаралогіі. М. Г. Чарнышэўскі лічыў гэтую кнігу «не бескарыснай для тых, у каго пад рукамі няма добрага збору кніг па рускай гісторыі». Аўтар кнігі «Віцебская губерня» (1852). *В. К. Бандарчык.*




Баўкун (Гомельская вобл.): 1 — колцы для пастронкаў, 2 — Г-падобная кульбака, 3 — штыр.




Баўкун (Гомельская вобл.): 1 — колцы для пастронкаў.




Баўкун (Мінская вобл.): 1 — колцы для пастронкаў, 2 — лука.

**БЕКЕ́ША,** 1) б е к е ш, мужчынскае паліто старадаўняга крою са зборкамі ў таліі. 2) Шуба, пакрытая чым-небудзь.

**БЕЛАРУСАЗНА́ЎСТВА,** б е л а р у с і с т ы к а, галіна навукі, што аб'ядноўвае шырокае кола пытанняў, звязаных са зборам, вывучэннем і публікацыяй матэрыялаў, прысвечаных культуры, грамадскай думцы Беларусі. У колішняй рускай і зах.-бел. літаратуры называлася таксама беларосіка, альбаросіка, у літаратуры на лацінскай мове — альбарутэніка. Уключае розныя навукі і навуковыя дысцыпліны, найперш гісторыю, мовазнаўства, фальклыстыку, этнаграфію, літаратуразнаўства, мастацтвазнаўства, апісанні падарожжаў па Беларусі, мемуарную літаратуру пра яе, краязнаўства і інш. Зацікаўленасць бел. землямі, жыццём і побытам іх насельніцтва вядома з часоў Кіеўскай Русі, аднак гісторыя Б. суадносіцца з гісторыяй славяназнаўства (узнікла ў 2-й пал. 18 ст.), з перыядам уз'яднання Беларусі з Расіяй (канец 18 ст.). Своеасаблівасць гіст. лёсу бел. краю, саслоўна-класавы падзел грамадства, нацыянальна-рэлігійныя фактары абумовілі супярэчлівыя погляды на Беларусь і яе народ. Б. выступала арэнай вострай ідэалагічнай і паліт. барацьбы розных сацыяльных сіл, асабліва ў час фарміравання бел. буржуазнай нацыі ў канцы 19— пач. 20 ст. Паслядоўна навуковы характар Б. набыло пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Яго метадалагічную аснову складае марксісцка-ленінскі гіст. матэрыялізм. За гады Сав. улады ў БССР створаны і дзейнічаюць навуковыя арганізацыі і ўстановы (у т. л. АН БССР, 3 ун-ты), што ўсебакова даследуюць праблемы Б. Рыхтуюцца кваліфікаваныя кадры, якія працуюць на ніве нацыянальнай культуры і Б. Выходзяць шматлікія перыядычныя выданні і бібліяграфічныя даведнікі,



**«Бацян».** Выконвае жыхарка вёскі Сіпавічы Браслаўскага раёна.

прысвечаныя разнастайным пытанням беларусазнаўства.

**БЕЛАРУ́СКАЕ ДОБРААХВО́ТНАЕ ТАВАРЫ́СТВА АХО́ВЫ ПО́МНІКАЎ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ**, масавая грамадская арганізацыя. Створана ў 1966. Садзейнічае далучэнню шырокіх слаёў насельніцтва да актыўнага і непасрэднага ўдзелу ў выяўленні і ахове помнікаў гісторыі і культуры, ажыццяўляе іх прапаганду, праводзіць мерапрыемствы па вывучэнню і выкарыстанню помнікаў, арганізоўвае шэфства прадпрыемстваў і ўстаноў над імі і інш. Устаноўчы з'езд (снеж. 1966) прыняў Статут і выбраў Цэнтр. савет т-ва. Вышэйшы кіруючы орган — з'езд (склікаецца не радзей аднаго разу ў 5 гадоў). З'езды адбыліся ў 1966, 1971, 1977, 1981, 1986). Кіруючы орган паміж з'ездамі — Рэспубліканскі савет, выканаўчы — прэзідыум. Пры т-ве дзейнічаюць: навукова-метадычны і рэдакцыйна-экспертны саветы, секцыі прапаганды, гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, маладзёжная, дакументальных помнікаў, архітэктуры, мастацтва. Т-ва — адзін з заснавальнікаў рэспубліканскага клуба «Пошук». Працуюць (1987) 6 абласных, 150 раённых і гарадскіх аддзяленняў, якія аб'ядноўваюць каля 13 тыс. пярвічных арганізацый, 2,5 млн. індывідуальных членаў, 4,4 тыс. калектыўных арганізацый. На сродкі дзярж. арганізацый і т-ва ўстаноўлены шэраг помнікаў, мемарыяльных знакаў, дошак. Т-ва фінансуе работы па кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры, гіст., рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы. Выдае кнігі, брашуры, буклеты, плакаты, лістоўкі, у т. л. «Ахова этнаграфічных помнікаў» М. С. Лобача, «Летапіс драўлянага дойлідства Беларусі» С. А. Сергачова, «Гарады Беларусі па летапісах і раскопках (IX—XIII стст.)» Г. В. Штыхава (усе 1975), «Прамысловыя прылады і рамесныя вырабы як помнікі матэрыяльнай культуры» І. М. Браіма і «Народнае дойлідства Беларусі» У. В. Трацэўскага (1976), «Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік» С. А. Мілючэнкава (1977), «Беларуская кафля», «Івянец — старажытны ганчарны цэнтр» Р. Ф. Валадзько і «Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст.» Ю. А. Якімовіча (усе 1978), «Помнікі народнай архітэктуры і побыту Беларусі» (1979), «Бортніцтва на Беларусі» У. С. Гуркова і С. Ф. Цярохіна (1980), «Слуцкія паясы» Г. А. Кірухіна (1981), «Народнае мастацтва Беларусі: Традыцыі і сучаснасць» (1982) і «Помнікі старажытнага рамяства» (1984) Я. М. Сахуты, «Гербы беларускіх гарадоў» А. К. Цітова (1983), «Старажытна-беларуская драўляная скульптура» А. К. Лявонавай (1985) і інш. З 1970 выдаецца бюлетэнь *«Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».* *Г. А. Саўчанка.*

**БЕЛАРУ́СКАЯ МО́ВА**, мова беларусаў — асноўнага насельніцтва Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Паводле перапісу 1979 г. яе лічаць роднай 6657 тыс. чал.— 88 % жыхароў Беларусі (беларусаў і прадстаўнікоў інш. нацыянальнасцей); усяго ў СССР пражывае 9463 тыс. беларусаў, з іх Б. м. лічаць роднай 74,2 %.

Б. м. разам з роднаснымі рускай і укр. адносіцца да ўсх. групы слав. моў. Усх.-слав. мовы многімі асаблівасцямі фанетычнай сістэмы, граматычнага ладу і слоўнікавага саставу адрозніваюцца ад моў зах. і паўд. слав. народаў. Б. м. склалася на працягу 13—15 ст. на аснове тых дыялектаў стараж.-рускай мовы, у якіх яшчэ захоўваліся асобныя рысы гаворак былых усх.-слав. плямён — дрыгавічоў, радзімічаў і зах. крывічоў. Стараж.-рускія дыялекты актывізаваліся ў эпоху феадальнай раздробленасці, а пазнейшыя паліт. падзеі садзейнічалі яшчэ большай дыферэнцыяцыі іх. У 13—14 ст. бел. землі ўвайшлі ў склад Вял. кн. Літоўскага, дзярж. мовай якога стала Б. м., яна выкарыстоўвалася ў дзярж., дыпламатычнай і прыватнай перапісцы, у канцылярыях гарадскіх, земскіх і замкавых судоў, у гарадскіх управах, магістратах і магдэбургіях. На Б. м. перакладалі воінскія і рыцарскія аповесці і раманы, гіст. хронікі і апакрыфічныя аповесці, на ёй ствараліся шматлікія летапісы, мастацкія, публіцыстычныя і мемуарныя творы. Распаўсюджванне на Беларусі рэфармацыйных плыняў садзейнічала пранікненню Б. м. ў канфесіянальную літаратуру, тым самым абмяжоўваючы выкарыстанне царкоўнаслав. мовы і яе ўплыў на мову бел. пісьменнасці. Заснавальнік бел. кнігадрукавання Ф. Скарына, захаваўшы царкоўнаслав. аснову сваіх выданняў, узбагаціў іх бел. моўнымі рысамі ў такой меры, што мова яго кніг прыкметна адышла ад традыцыйнай царкоўнаслав. мовы. Яшчэ далей у збліжэнні мовы рэлігійнай літаратуры з жывой нар. мовай пайшлі С. Будны і В. Цяпінскі. У развіццё літаратурнай Б. м. стараж. перыяду значны ўклад зрабілі С. Зізаній, М. Смятрыцкі, Л. Карповіч, А. Філіповіч і інш. Паводле Люблінскай уніі (1569) Беларусь, як і астатнія часткі Вял. кн. Літоўскага, была ўключана ў склад Рэчы Паспалітай. У новых паліт. умовах вышэйшыя слаі бел. грамадства паланізаваліся і пачалі карыстацца польскай мовай. Літаратурная Б. м. паступова страчвала свае былыя пазіцыі і з 2-й пал. 17 ст. яе перасталі ўжываць спачатку ў справаводстве, а потым і ў іншых сферах грамадскага і культурнага жыцця. З канца 17 і на працягу 18 ст. Б. м. бытавала пераважна ў дыялектнай форме як мова сялянства, рамеснікаў і дробнай шляхты.

Далучэнне Беларусі да Расіі з'явілася важным фактарам у фарміраванні бел. нацыі і нацыянальнай мовы. Нацыянальна-вызваленчы рух і рост самасвядомасці беларусаў прывялі да ўзнікнення новай бел. літаратурнай мовы. Значную ролю ў яе станаўленні адыгралі пісьменнікі В. Дунін-Марцінкевіч і Ф. Багушэвіч, яе развіццю садзейнічалі аўтары ананімных вершаў і гутарак, паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», рэвалюцыянер К. Каліноўскі і выдаваемая ім газ. «Мужыцкая праўда», паэты Я. Лучына, А. Гурыновіч, А. Абуховіч і інш. Новая літаратурная Б. м. складвалася выключна на базе жывых нар. гаворак, без прадаўжэння стараж. пісьмовых традыцый. Бел. пісьменнікі 19 ст. шырока ўводзілі ў літаратурны ўжытак граматычныя і лексічныя асаблівасці сваіх родных гаворак. Збіральнікі нар. творчасці таксама імкнуліся дакладна перадаць асаблівасці мясцовага вымаўлення. Фальклорныя творы запісваліся рознымі арфаграфічнымі прыёмамі, якія ўмоўна можна аднесці да двух відаў: фанетычныя (кожнаму гуку ў вымаўленні адпавядала асобная літара ў тэксце — М. А. Дзмітрыеў, Я. Ф. Карскі, І. А. Сербаў, А. К. Сержпутоўскі, М. Федароўскі, П. Шпілеўскі, І. Шыдлоўскі, Я. Чачот) і этымалагічна-фанетычныя (фанетычныя рысы, агульныя для бел. і рускай моў, перадаваліся паводле правіл тагачаснай рускай арфаграфіі, а спецыфічна бел. моўныя з'явы — паводле фанетычнага прынцыпу — П. А. Бяссонаў, А. С. Дамбавецкі, І. І. Насовіч, Е. Р. Раманаў, П. В. Шэйн). Літаратурныя і публіцыстычныя творы друкаваліся лацінкай польскай мадыфікацыі і кірыліцай рускага варыянта. Выкарыстанне двух графічных сістэм стрымлівала выпрацоўку адзіных арфаграфічных і граматычных норм. Літаратурная Б. м. 19 ст. была абмежаванай у жанравых адносінах і не адыгрывала значнай ролі ў тагачасным грамадскім жыцці. Яна выкарыстоўвалася гал. чынам у паэтычных і публіцыстычных творах, многія з іх выдаваліся за мяжой або наогул не траплялі ў друк і заставаліся ў рукапісах. Літаратурная мова не мела доступу ў справаводства і навуку, яна не мела яшчэ такіх прыкмет, як нармíраванасць, стылістычная дыферэнцыяцыя, агульнаабавязковасць і прыдатнасць для розных мэт зносін.

Якасна новы этап у гісторыі Б. м. пачаўся пасля Рэвалюцыі 1905—07. Актывізацыя на Беларусі нацыянальна-вызваленчага руху суправаджалася з'яўленнем бел. выдавецтваў і легальных друкаваных перыядычных выданняў. Літаратурная мова пашырылася на публіцыстыку, навукова-папулярную літаратуру, вучэбна-педагагічныя выданні і дзелавыя паперы. Скляліся асноўныя правапісныя і граматычныя нормы, слоўнікавы склад папоўніўся грамадска-паліт. і навуковай тэрміналогіяй, пачало складвацца бел. літаратурнае вымаўленне. У выпрацоўцы норм і ўзбагачэнні літаратурнай мовы вялікую ролю адыгралі пісьменнікі і паэты Я. Купала, Я. Колас, Цётка, М. Багдановіч, З. Бядуля, Ц. Гартны, М. Гарэцкі і інш.

Бурнае развіццё літаратурнай Б. м. пастала пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі Беларусь атрымала дзярж. самастойнасць. Выкарыстанне Б. м. ў літаратуры і навуцы, у школе, дзярж. і культурна-асветных установах выклікала інтэнсіўную работу па ўпарадкаванню арфаграфічных і граматычных норм, распрацоўцы грамадска-паліт. і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі і нармалізацыі яе слоўнікавага саставу. Актыўнаму развіццю мовы садзейнічалі шырокі ўдзел нар. мас у гаспадарчым і культурным жыцці, стварэнне густой сеткі пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школ і культурна-асветных устаноў. Магутным фактарам развіцця літаратурнай мовы, нармалізацыі яе граматычнай сістэмы і слоўнікавага саставу з'явіліся небывалы дагэтуль уздым друкарства, пашырэнне сродкаў масавай камунікацыі (газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне, тэатр і інш.). Дабратворны ўплыў на Б. м., асабліва на яе слоўнікавы састаў, аказвае руская мова, якая стала сродкам міжнацыянальных зносін народаў СССР.

Важнейшыя фанетычныя, граматычныя і лексічныя рысы, што надаюць спецыфіку сучаснай Б. м., узніклі ў 13—14 ст. У галіне фанетыкі асабліваснямі Б. м. з'яўляюцца: дзеканне і цеканне (дзед, дзеці, маці, цётка), цвёрды гук «р» (гразь, бяроза, прама); зацвярдзенне губных у канцы слоў і перад «j» (голуб, сем, сям'я); наяўнасць якання (вясна, зямля, сястра). З ліку марфалагічных рыс варта адзначыць наступныя: канчатак «-ам» у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду на -а (дзядзькам, старастам); канчатак «-ы» ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў ніякага роду (азёры, вокны, сёлы); канчатак «-аў» у родным склоне множнага ліку назоўнікаў жаночага і ніякага роду (бітваў, брытваў, пісьмаў); канчатак «-і(-ы)» у прыметніках назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду (добры, новы, сіні); канчатак «-ім(-ым)» прыметнікаў і неасабовых займеннікаў у месным склоне адзіночнага ліку (аб маладым, аб маім); адсутнасць прыстаўнога «н» пры займенніках «ён», «яна», «яно», «яны» ва ўскосных склонах пасля прыназоўнікаў (у яго, з ім, у іх); інфінітывы на «-гчы» дзеясловаў з асновай на заднеязычныя (бегчы, легчы, магчы); нескарочаная часціца «ся» ў формах дзеяслова (баюся, дзіўлюся, смяяліся).

Шэраг рыс аб'ядноўвае Б. м. з укр. мовай і адрознівае ад рускай: фарынгальны гук «г» [h]: (гусь. дуга, нага); старыя спалучэнні рэдукаваных «ы», «и» перад «j» і «и» (крыю, мыю, шыю); спалучэнні «ры», «лы» на месцы старых спалучэнняў плаўных з рэдукаванымі «ъ», «ь» (дрыгва, хрыбет, яблык); падваенне зычных у інтэрвакальным становішчы (вяселле, калоссе, насенне); нескладовы гук «ў» пасля галосных перад зычнымі і ў канцы слоў (воўк, праўда, ліў, піў); прыстаўны гук «в» перад пачатковымі «о» і «у» (восень, вока, вуха); прыстаўныя галосныя перад пачатковымі санорнымі (аржаны, імгла, іржавы); афрыката «дж» як самастойны гук (валжу, паходжанне, ураджай); захаванне «е» перад шыпячымі (адзежа, сцежка, цешча); ужыванне клічнай формы назоўнікаў (браце, голубе, дружа); свісцячыя зычныя ў назоўніках давальнага і меснага склонаў (назе, руцэ, страсе); канчатак «-ы» ў назоўніках мужчынскага роду назоўнага склону множнага ліку (гарады, дамы, лясы); формы назоўнага склону множнага ліку пры лічэбніках 2, 3, 4 (два дамы, тры сталы, чатыры браты); суфікс «-эйш-» прыметнікаў вышэйшай ступені параўнання (вышэйшы, старэйшы, чарнейшы); мяккі канчатак «-ць» у дзеясловах 3-й асобы цяперашняга часу (водзіць, гаворыць, пішуць, чытаюць); дзеепрыслоўі на «-ачы/-учы» (гаворачы, ідучы, лежачы); шыпячыя зычныя ў формах загаднага ладу (бяжы, памажы, пячы). З другога боку, некаторыя рысы аб'ядноўваюць Б. м. з рускай мовай у адрозненне ад укр.: аканне (вада, галава, малако); захаванне старых «о» і «е» ў новых закрытых складах (воз, конь, печ); змяненне «е» ў «о» пасля мяккіх зычных (авёс, вясёлы, зялёны), аглушэнне звонкіх зычных у пэўных пазіцыях [ду(п), хала(т), кні(ш)ка], мяккія зычныя перад галоснымі пярэдняга раду (ліпа, неба, сіла), вымаўленне «е» на месцы старога «ѣ» (снег, сена, цела), цвёрды гук «ц» (месяц, палец, праца), канчатак «-у» ў давальным склоне адушаўлёных назоўнікаў (вучню, госцю, сыну), захаванне заднеязычных «г», «к» у формах дзеясловаў 1-й асобы адзіночнага ліку і 3-й асобы множнага ліку (магу — могуць, пяку — пякуць), утварэнне будучага складанага часу з дапаможным дзеясловам «буду» (буду хадзіць, буду чытаць) і інш.

Слоўнікавы састаў Б. м. базіруецца на трох асноўных гіст. пластах: агульнаслав. і агульнаўсх.-слав. лексіка, уласнабел. новаўтварэнні і запазычанні. Агульнаслав. лексіка ўтварае ядро слоўнікавага саставу Б. м., яна ўключае назвы з'яў прыроды (вецер, гром, дождж), рэльефу і мясцовасці (гара, лес, поле), адрэзкаў часу (дзень, ноч, зіма), выкапняў (гліна, жалеза, соль), раслін (бяроза, дуб, ліпа), птушак і жывёлін (варона, воўк, мядзведзь), частак чалавечага цела (галава, нага, рука), ступеняў сваяцтва (брат, сын, унук), паняццяў гаспадарчай дзейнасці (барана, гумно, жыта), пачуццяў і духоўных здольнасцей чалавека (воля, радасць, розум), дзеянняў і працэсаў (браць, насіць, хадзіць), прымет-якасцей (белы, новы, чысты) і інш. Большая частка такіх слоў агульная для ўсёй слав. моўнай тэрыторыі, адрозненні паміж імі толькі ў вымаўленні. Агульнаслав. лексіка ў стараж.-рускую эпоху папоўнілася шматлікімі неалагізмамі (волат, дзевяноста, коўш, сям'я) і запазычаннямі з грэчаскай, стараслав., скандынаўскіх і цюркскіх моў. Пэўную спецыфіку надаюць стараж. дыялектызмы, якія ў адрозненне ад рускай мовы захаваліся ў бел. і ўкр. мовах (вежа, гай, жыта, зязюля, хмара). У Б. м., як і ва ўкр., захоўваюцца ўсх.-слав. поўнагалосныя формы (вораг, нораў, палон, кароткі, салодкі), якім у рускай мове адпавядаюць стараслав. няпоўнагалосныя словы. Існуе таксама многа іншых даўніх слоў, агульных для бел. і укр. моў у адрозненне ад рускай (вяселле, зброя, каваль, кішэнь, краіна, мова, скрыня, справа, страва, бачыць, існаваць, хаваць).

Найбольшая колькасць уласнабел. новаўтварэнняў адносіцца да эпохі самастойнага існавання Б. м. Яны ўтварыліся пераважна ад агульнаслав. каранёвых элементаў з выкарыстаннем пашыраных у Б. м. словаўтваральных сродкаў — суфіксаў і прыставак. Пры гэтым прадуктыўнасць асобных словаўтваральных сродкаў у бел. і рускай мовах неаднолькавая. Напр., словам рускай мовы з суфіксам «-тель-» у Б. м. адпавядаюць утварэнні з суфіксамі «-цель-» (избавитель — збавіцель, проявитель — праявіцель), «-нік-» (нагреватель — награвальнік, покупатель — пакупнік), «-біт-» (носитель — носьбіт, сеятель — сейбіт), «-ач-» (слушатель — слухач, читатель — чытач), «-ец-» (издатель — выдавец, податель — падавец), «-чык-», «-шчык-» (показатель — паказчык, избиратель — выбаршчык). Рускім дзеясловам з прыстаўкай «из-» адпавядаюць утварэнні з прыстаўкамі «вы-» (изгнать—выгнаць, издать — выдаць), «з-» (изгладить — згладзіць, измерить — змерыць), «па-» (избегать — пазбягаць, избавить—пазбавіць). Спецыфіка бел. лексікі асабліва выразна выяўляецца пры прэфіксальна-суфіксальным словаўтварэнні (заместитель — намеснік, исследователь — даследчык, основатель — заснавальнік). У сучаснай Б. м. актыўна дзейнічаюць такія спосабы словаўтварэння, як словаскладанне (бульбакапалка, птушкаферма, станкабудаванне) і абрэвіяцыя (БССР, калгас, партбюро).

Запазычанні Б. м. ў залежнасці ад часу, шляхоў пранікнення і семантычнай характарыстыкі падзяляюцца на даўнія і сучасныя. Сярод даўніх значнае месца займаюць паланізмы (бруд, кабета, моц, пан, праца, хлопец). Праз польскую мову, а часткова і непасрэдна з нямецкай мовы пранікла пэўная колькасць нямецкіх слоў (гвалт, дах, ланцуг, ліхтар, фарба, цыбуля). Да даўніх запазычанняў адносяцца таксама лацінізмы (адукацыя, аркуш, артыкул, водар, гонар, гумар, колер) і літуанізмы (дойлід, ёўня, клуня, свіран). Сучасныя запазычанні складае пераважна інтэрнацыянальная лексіка. Аснову яе ўтвараюць запазычанні з грэчаскай і лацінскай моў або штучныя новаўтварэнні на базе словатворчых марфем гэтых моў (агратэхніка, біялогія, галаграфія, касмадром, тэлефон,

фатаграфія). Да інтэрнацыянальнай лексікі адносяцца таксама грамадска-паліт., навуковыя і тэхнічныя тэрміны, запазычаныя з англійскай (імпарт, клуб, радар, трактар, трамвай, фільм), французскай (арка, арыя, кантата, опера, студыя) моў і інш.

Сучасная Б. м. існуе ў літаратурнай і дыялектнай формах. Літаратурная мова грунтуецца на цэнтр. бел. гаворках, але ў працэсе свайго развіцця сінтэзавала характэрныя для большай часткі бел. гаворак фанетычныя, граматычныя і лексічныя рысы і цяпер поўнасцю не суадносіцца з якім-небудзь адным тэрытарыяльным дыялектам.

Дыялектная Б. м. ўключае асноўны масіў народных гаворак (выдзяляюцца паўн.-ўсх. і паўд.-зах. дыялекты) і т. зв. палескую групу гаворак (гл. ў арт. *Дыялектная назва).* *А. І. Жураўскі.*

**«БЕЛАРУ́СКАЯ НАРО́ДНАЯ ТВО́РЧАСЦЬ»**, шматтомнае навуковае выданне бел. фальклору, якое ажыццяўляецца Ін-там мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Распрацоўка плана-праспекта, структуры і тэксталагічных прынцыпаў выдання вялася пад кіраўніцтвам П. Глебкі. Выкарыстаны матэрыялы з друкаваных крыніц, архіваў Мінска, Масквы, Ленінграда, Львова, Кіева, Вільнюса, ПНР, значную частку складаюць экспедыцыйныя запісы апошніх гадоў. Размеркаванне па тамах зроблена паводле жанравага прынцыпу. Ва ўступных тэарэтычных артыкулах даецца вызначэнне жанру, асвятляецца гісторыя збірання і вывучэння матэрыялу, характарызуюцца крыніцы, аналізуюцца ідэйна-тэматычныя і мастацкія асаблівасці твораў, абгрунтоўваюцца прынцыпы класіфікацыі і сістэматызацыі. Творы звычайна суправаджаюцца каментарыямі з указаннем крыніц, варыянтаў у бел. і адпаведнікаў у іншамоўным фальклоры. Даведачны апарат складаюць паказальнікі: імянны, збіральнікаў, алфавітны, геаграфічны і інш., а таксама слоўнікі малазразумелых слоў. У песенных тамах даюцца нотныя ўзоры меласу, ва ўступных артыкулах аналізуюцца музычныя асаблівасці жанру. Кожны том — не толькі найбольш поўны збор твораў пэўнага жанру, але і навуковае даследаванне яго генезісу, ідэйна-тэматычных і паэтычных асаблівасцей, сувязей з вуснай паэзіяй інш. славянскіх народаў.

Выдадзены «Песні савецкага часу» (1970), «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі» і «Радзінная паэзія» (1971), «Дзіцячы фальклор» і «Загадкі» (1972), «Чарадзейныя казкі» (ч. 1—2, 1973—78), «Жартоўныя песні» і «Жніўныя песні» (1974), «Зімовыя песні: Калядкі і шчадроўкі» (1975), «Сацыяльна-бытавыя казкі» (1976), «Прыказкі і прымаўкі» (кн. 1—2, 1976), «Балады» (кн. 1—2, 1977—78), «Песні пра каханне» і «Вяселле: Абрад» (1978), «Веснавыя песні» і «Выслоўі» (1979), «Вяселле: Песні» (кн. 1—5, 1980—86), «Валачобныя песні» (1980), «Восеньскія і талочныя песні» (1981), «Народны тэатр» і «Легенды і паданні» (1983), «Жарты, анекдоты, гумарэскі» і «Сямейна-бытавыя песні» (1984), «Купальскія і пятроўскія песні» (1985), «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні» (1986). Сабраныя ў такім аб'ёме творы даюць уяўленне пра багацце бел. фальклору, што адлюстроўвае жыццё народа, яго гісторыю, светапогляд, эстэтычныя погляды, маральна-этычныя ідэалы, абрады і звычаі. Работа над выданнем актывізавала збіральніцкую і даследчыцкую дзейнасць у галіне бел. фальклору. За складанне звода «Б. н. т.» А. С. Фядосіку (кіраўнік работы), М. Я. Грынблату і В. Я. Ялатаву (пасмяротна), Г. А. Барташэвіч, А. І. Гурскаму, К. П. Кабашнікаву, А. С. Лісу, Л. А. Малаш, Л. М. Салавей, І. К. Цішчанку прысуджана Дзярж. прэмія БССР 1986. *К. П. Кабашнікаў.*



**Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.** Экспазіцыя сектара «Цэнтральная Беларусь».



**Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.** Выстаўка «Каляндарныя абрады Беларусі».

**«БЕЛАРУ́СКІ АРХІ́Ў»**, першае савецкае археаграфічнае выданне ў БССР па гісторыі бел. зямель. Зборнікі выдадзены Ін-там бел. культуры (т. 3 — АН БССР) пад кіраўніцтвам археографа Дз. І. Даўгялы (т. 1—3. Мн., 1927—30). Уключае дакументы па сацыяльна-эканам. гісторыі Беларусі 15—18 ст. Сярод іх царскія, каралеўскія, княжацкія граматы і прывілеі гарадам на магдэбургскае права, шляхце і духавенству на зямлю і маёнткі, купцам на гандаль, на ўтрыманне корчмаў, а таксама ахоўныя граматы, інвентары, статуты цэхаў, запісы сялянскіх павіннасцей, завяшчанні, гасп. дагаворы і інш. Матэрыялы асвятляюць эканоміку, сацыяльнае становішча, класавую барацьбу, матэрыяльную культуру, грамадскі і сямейны побыт насельніцтва, пераважна Магілёўшчыны ў 16—17 ст. (т. 1), гісторыю Віцебскай і Полацкай зямель у 15—16 ст. (землекарыстанне і землеўладанне сялян, мяшчан, шляхты, духавенства, гандаль, падаткі, стараж. бел. права і інш., т. 2), Мінска і Міншчыны ў 15—18 ст. (т. 3). Дакументы надрукаваны на мове арыгінала (бел., рускай, польскай і лацінскай). *Л. В. Аржаева.*

**«БЕЛАРУ́СКІ АРХІ́Ў СТАРАЖЫ́ТНЫХ ГРА́МАТ»**, першае археаграфічнае выданне па гісторыі бел. зямель. Падрыхтаваны ў Гомелі І. І. Грыгаровічам, які збіраў рукапісы ў Магілёве і Мсціславе. Зборнік выдадзены ў 1824 у Маскве. Выданне планавалася ў 3 частках, выйшла толькі 1-я. Змешчана 57 дакументаў па гісторыі ўсх. Беларусі 15—18 ст. Ёсць матэрыялы пра развіццё бел. гарадоў, гандаль (пра

атрыманне Магілёвам магдэбургскага права ў 1577, каралеўская і царскія граматы на дазвол магілёўскім купцам свабоднага праезду для гандлю ў Расіі і на Украіне і інш.), пра самакіраванне, фарміраванне гарадскога саслоўя, дзейнасць купецкіх кас, царкоўных брацтваў [грамата на дазвол епіскапу Георгію Каніскаму адкрыць у прадмесці Магілёва грэка-лацінскае вучылішча і друкарню (1768)] і інш. Некаторыя дакументы (пераважна 16—17 ст.) змяшчаюць звесткі пра матэрыяльную і духоўную культуру гарадскога і сельскага насельніцтва, яго сямейны і грамадскі побыт. Шэраг дакументаў надрукаваны паралельна на бел. і польскай мовах, асобныя граматы на лацінскай і ў перакладзе на рускую мову. Рукапіс 2-й часткі зборніка зберагаецца ў Цэнтр. дзярж. архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

**БЕЛАРУ́СКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ АРХІТЭКТУ́РЫ І ПО́БЫТУ.** Ствараецца са снежня 1976. Знаходзіцца за 12 км на ПдЗ ад Мінска, каля Воўчкавіцкага вадасховішча на беразе р. Пціч. Тэрыторыя каля 70 га. Згодна праекта і распрацаваных сектарам этнаграфіі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР навуковых метадычных рэкамендацый у аснову музея пакладзены тэрытарыяльна-этнічны, функцыянальна-падпарадкавальны, гіст. і сацыяльны прынцыпы. Экспазіцыйная зона складаецца з сектараў, прысвечаных матэрыяльнай і мастацкай культуры асноўных этнагр. рэгіёнаў Беларусі (Паазер'е, Падняпроўе, Цэнтр. Беларусь, Панямонне, Зах. Палессе, Усх. Палессе) і сектара «Мястэчка». Кожны сектар утварае адпаведны рэгіёну тып пасялення, у які ўваходзяць помнікі драўлянага дойлідства 16 — пач. 20 ст. У экспазіцыі будуць размешчаны грамадскія, жылыя, гаспадарчыя і вытворчыя пабудовы, унікальныя помнікі, у інтэр'ерах — прадметы хатняга ўжытку, прылады промыслаў і рамёстваў, с.-г. інвентар, адзенне, творы нар. мастацтва і інш. У выніку экспедыцыйнага абследавання выяўлена больш за 200 помнікаў нар. драўлянага дойлідства, сабрана каля 10 тыс. этнагр. экспанатаў. З 1980 помнікі дойлідства пераносяцца на тэрыторыю музея. У 1987 адкрыты сектар «Цэнтральная Беларусь». У ім дэманструецца фрагмент вёскі 19 — пач. 20 ст. з вулічнай планіроўкай. Кампазіцыйны цэнтр утвараюць будынкі царквы 18 ст. з в. Логнавічы Клецкага р-на і грамадская свірна пач. 20 ст. з в. Касарычы Глускага р-на. На прыкладзе сялянскіх двароў пач. 20 ст. з в. Ісерна Слуцкага, Садавічы Капыльскага, Забароддзе Стаўбцоўскага р-наў паказаны эвалюцыя двара пагоннага тыпу, тыповы інтэр'ер і асаблівасці побыту насельніцтва Цэнтр. Беларусі. У кузні з в. Клочкава Маладзечанскага р-на экспануюцца прылады працы і кавальскія вырабы. *Г. І. Фурс.*

**БЕЛАРУ́СКІ МУЗЕ́Й** у В і л ь н і. Заснаваны ў 1921 на базе прыватнай калекцыі бел. этнографа і археолага І. Луцкевіча і інш. матэрыялаў. Зберагаліся калекцыі археалагічная (з раскопак на Беларусі Я. П. Тышкевіча, І. Луцкевіча і інш.), сфрагістычная, нумізматычная, калекцыя медалёў, крыжоў, свінцовых пломбаў 12—13 ст., выяўленых у Драгічыне; зборы слуцкіх паясоў, дываноў Нясвіжскай і Гродзенскай мануфактур, бел. народных музычных інструментаў, твораў бел. народных разьбяроў і інш. Сярод матэрыялаў калекцыя рукапісаў, кнігі 15—18 ст. з друкарняў Вільні, Гродна, Магілёва, Нясвіжа, Полацка, Слуцка і інш., карціны мастакоў 16—18 ст., творы мастака Я. Драздовіча, пячаткі полацкіх князёў Усяслава





**Беларусы.** Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588.

і Барыса, Гал. трыбунала і войска Вял. кн. Літоўскага, галаснікі Калажскай царквы ў Гродне, рукапісы і творы бел. пісьменнікаў і інш. экспанаты. У бібліятэцы музея былі зборы Луцкевіча і частка бібліятэкі Е. Р. Раманава. Пасля Вял. Айч. вайны экспанаты перададзены ў Гісторыка-этнагр. музей Літ. ССР у Вільнюсе і Дзярж. музей БССР у Мінску, кнігі і рукапісы — у Цэнтр. бібліятэку АН Літ. ССР, частка рукапісаў — у Цэнтр. дзярж. архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. У 1977 частка этнагр. збораў перададзена (891 экспанат) з музея ў Вільнюсе ў *Музей старажытнабеларускай культуры* Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР: прылады працы і побыту, адзенне, галаўныя ўборы беларусаў 19— пач. 20 ст., вырабы нар. мастацтва — ручнікі, паясы, посцілкі, калекцыі *гараднянскай керамікі, івянецкай керамікі, поразаўскай керамікі, ракаўскай керамікі* і інш. матэрыялы.

**БЕЛАРУ́СЦЫ,** назва насельніцтва пераважна ўсходняй часткі Беларусі ў 17—18 ст. у афіцыйных дакументах Рускай дзяржавы ў адносінах да розанаэтнічнага насельніцтва *Белай Русі* (жыхароў Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага і часткова Мінскага ваяводстваў Рэчы Паспалітай, а таксама зах. Смаленшчыны, паўн. Чарнігаўшчыны, паўд. Пскоўшчыны). Паступова на працягу 19 ст. ў выніку этнічнай кансалідацыі насельніцтва гэтай тэрыторыі Б. сталі называць толькі беларусаў, а сама назва Б. трансфармавалася ў этнонім «беларусы». *І. У. Чаквін.*

**БЕЛАРУ́СЫ,** нацыя, асноўнае насельніцтва Беларускай ССР. Складае 7569 тыс. чалавек (перапіс 1979), 79,4 % усяго насельніцтва рэспублікі. Усяго ў СССР 9463 тыс. Б., з іх у РСФСР 1052 тыс., УССР — 406, Казахскай ССР — 181, Латвійскай ССР — 112, Літоўскай ССР — 58, Эстонскай ССР — 23, інш. рэспубліках — 63 тыс. Каля 1 млн. Б. жыве за мяжой. Разам з *рускімі* і *украінцамі* Б. належаць да ўсх. *славян.* Гавораць на *беларускай мове.* Тэрыторыя кампактнага рассялення бел. этнасу ў межах БССР займае 207,6 тыс. км² і ахоплівае басейны



Бітва на Няміге. 1067. Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу 15 ст.

Верхняга Дняпра, Сожа, Зах. Дзвіны, Нёмана, Прыпяці і часткова Зах. Буга. На ПнУ і У мяжуе з РСФСР, на Пд — з УССР, на ПнЗ — з Літ. ССР і Лат. ССР, на З — з ПНР.

Археалагічныя даследаванні сведчаць, што ўжо ў 5—8 ст. н. э. землі сучаснай Беларусі насялялі слав. плямёны, з якімі генетычна звязаны саюзаплемянныя і раннефеадальныя этнапалітычныя супольнасці 9—10 ст. — палацкія *крывічы, дрыгавічы, радзімічы,* часткова *валыняне, драўляне* і *севяране.* На думку сучасных даследчыкаў, паўд.-зах. землі ўваходзілі ў т. зв. прарадзіму славян і належалі да пражскай культуры (культуры тыпу Карчак). Працэс рассялення славян на Беларусі суправаджаўся актыўнымі міжэтнічнымі кантактамі з мясцовымі балцкімі плямёнамі (гл. *Балты*), у выніку чаго апошнія

ў асноўным былі асіміляваны, а часткова (у зах. абласцях) склалі змешаныя балта-славянскія групы. У канцы 9 — пач. 11 ст. ўзмацніліся працэсы нівеліроўкі этнакультурных асаблівасцей усх.-слав. плямён, што было абумоўлена сацыяльна-эканам., дзярж.-паліт., культурнай і канфесіянальнай *інтэграцыяй* у межах стараж.-рускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. З гэтым перыядам гісторыі ўсх. славян звязана ўзнікненне феадальных адносін і класаў, гарадоў, права, распаўсюджанне хрысціянства, складванне адзінай дзярж. тэрыторыі, а ў этнічным аспекце — фарміраванне стараж.-рускай народнасці. Паралельна з працэсамі кансалідацыі і інтэграцыі існавалі і супрацьлеглыя тэндэнцыі, якія актывізаваліся ў другой палове 11—13 ст., калі Кіеўская Русь ужо не ўяўляла сабой адзінага паліт. цэлага і складалася з шэрагу асобных зямель-княжанняў (землі Беларусі ўваходзілі, напр., у склад Полацкага, Тураўскага, Пінскага, слаўскае і інш. княствы, што захоўвалі пэўную сацыяльна-эканам. і юрыдычна-прававую аўтаномію ў складзе дзяржавы. На працягу 15—16 ст. у Вял. кн. Літоўскім узрасла колькасць гарадоў і мястэчак, узмацніліся гандлёвыя сувязі паміж імі, павялічылася доля гандлёва-рамесніцкага насельніцтва, павысілася таварнасць і прадукцыйнасць сельскай гаспадаркі. У гэты час былі праведзены адміністрацыйна-тэрытарыяльныя і аграрна-гаспадарчая рэформы, кадыфікацыя і уніфікацыя дзярж. юрыдычных норм. Апошняя завяршылася складаннем першага (1529), другога (1566) і трэцяга (1588) *Статутаў Вялікага княства Літоўскага* — асноўных прававых дакументаў, якія мелі перавагу над лакальнымі юрыдычнымі нормамі. Нават пасля аб'яднання з Польшчай у выніку Люблінскай уніі 1569 у Рэч Паспалітую Вял. кн. Літоўскае працягвала захоўваць паліт. аўтаномію, свой урад, юрыдычныя правы, войска, фінансы і інш., што ў пэўнай меры стрымлівала польскі ўплыў на бел. і літоўскі народы, садзейнічала іх унутрыэтнічнай кансалідацыі і міжэтнічнай час афіцыйнай дзярж. мовай Вял. кн. Літоўскага і сродкам зносін паміж усх.-слав. насельніцтвам і літоўцамі-аўкштайтамі, жмудзінамі, латгаламі, а таксама больш дробнымі этнічнымі групамі татараў, яўрэяў, цыган, караімаў і інш.

Этнакансалідуючую функцыю для ўсх.-слав. насельніцтва Беларусі ў перыяд складвання народнасці адыгрываў у пэўнай меры і канфесіянальны фактар, калі адбывалася сумяшчэнне і ўзаемадапаўненне рэлігійнай і этнічнай самасвядомасці. Большасць усх.-слав. насельніцтва Вял. кн. Літоўскага да 16 ст. трымалася праваслаўя, прынятага ім у канцы 10 ст. (праваслаўе прызнавала таксама частка насельніцтва этнагр. Літвы і Жмудзі). Пасля дынастычнага саюза Вял. кн. Літоўскага і Каралеўства Польскага (1385) на землях Літвы і Беларусі пачало распаўсюджвацца каталіцтва, у 16 ст. — у сувязі з еўрапейскім рэфармацыйным рухам — пратэстантызм (лютэранства, кальвінізм і інш.), а з 1596 — пасля Брэсцкай уніі — уніяцтва. Праваслаўныя цэрквы Беларусі, Украіны і Літвы, прымусова пераведзеныя ў уніяцтва,



**Беларусы.** Гарадзішча днепра-дзвінскай культуры ў в.Баброва Дубровенскага раёна.



Рэчы з раскопак гарадзішча (11—12 ст.) паміж вёскамі Вішчын і Кісцяні Рагачоўскага раёна.

Навагрудскага і — часткова — Смаленскага, Чарнігаўскага, Кіеўскага і Уладзіміра-Валынскага княстваў).

**Фарміраванне і развіццё беларускай народнасці.** Апошнія этапы этнагенезу Б. ахопліваюць перыяд з сярэдзіны 13 па 16 ст., калі землі Беларусі ўваходзілі ў склад поліэтнічнай феадальнай дзяржавы — Вял. кн. Літоўскага. Дзейнасць сацыяльна-эканам., паліт., дэмаграфічнага і этнакультурнага фактараў абумовіла ўзрастанне этнасацыяльных сувязей паміж рознымі тэрытарыяльнымі часткамі насельніцтва Беларусі, яго ўнутрыэтнічную *кансалідацыю*. Паднačаленне раздробленых усх.-слав. княстваў і зямель адзінай дзярж. уладзе спыніла працэс феадальнага драблення і садзейнічала стварэнню агульнай этнічнай тэрыторыі Б., у склад якой уваходзілі Полацкая, Віцебская землі, а таксама Слуцкае, Кобрынскае, Мсціінтэграцыі. Для бел. насельніцтва аб'яднальныя ўнутрыэтнічныя працэсы ўзмацняліся агульнай этнагенетычнай спадчынай, якая аб'ядноўвала розныя тэрытарыяльныя групы Б. на аснове агульнасці іх гіст. лёсу, культуры, мовы, рэлігіі. Значную ролю адыгрываў фактар кампактнага тэрытарыяльнага рассялення Б. і іх дэмаграфічнае становішча (усх.-слав. землі складалі большасць дзярж. тэр. Вял. кн. Літоўскага, а насельніцтва — асноўны этнічны масіў). Б. насялялі гарады і мястэчкі інш. абласцей дзяржавы (на сумежжы Смаленшчыны, Пскоўшчыны, Чарнігаўшчыны, Браншчыны, Латгаліі, Падляшша), складалі значную частку насельніцтва ў гарадах Усх. Літвы — Коўна, Троках, сталіцы Вял. кн. Літоўскага Вільні. Дамінуючае дэмаграфічнае становішча Б. у межах дзяржавы і высокі ўзровень развіцця іх культуры вызначылі поліэтнічны характар пашырэння іх мовы. Старабел. (тады яе называлі «руськая») мова была ў той трапілі пад духоўную ўладу пантыфіката рымскага і ўспрынялі некаторыя догматы каталіцызму. Уніяцтва азначала для праваслаўнага насельніцтва ломку традыцыйных поглядаў, а ва ўмовах папярэдняй адноснай свабоды веравызнання з'яўлялася яшчэ своеасаблівым замахам на традыцыйны лад жыцця з пэўнымі моўнымі, культурнымі, бытавымі і канфесіянальнымі нормамі. Унія выклікала ў большасці праваслаўных незадаволенасць і пратэст, што выявілася ў антыфеадальным і нацыянальна-рэлігійным руху канца 16—1-й пал. 17 ст., сялянска-казацкіх выступленнях (Налівайка, Шаула), гарадскіх паўстаннях (у Віцебску, Магілёве, Оршы). Актыўна праводзілася таксама палітыка акаталічвання і апалячвання Б., літоўцаў. Найбольш глыбока паланіза-

цыя пранікла ў самасвядомасць, матэрыяльную і духоўную культуру пануючых класаў Беларусі, якія разам з феадаламі Літвы і Украіны аб'ядналіся ў т. зв. «шляхецкі народ Рэчы Паспалітай». Больш за палову бел. *шляхты* ў 17 ст. спавядала каталіцкую ці уніяцкую веру; карысталася польскай моваі і прытрымлівалася агульнасаслоўных стэрэатыпаў ладу жыцця, паводзін (напр., *панібрацтва)*. Усе этнаўтваральныя фактары, што садзейнічалі складванню бел. народнасці ў 14—16 ст., у цэлым вызначаліся аб'яднальнай тэндэнцыяй, аднак ступень яе праяўлення вагалася ад вузкалакальнага да агульнадзярж. маштабу. Асноўнай формай тэрытарыяльнай і саслоўнай арганізацыі насельніцтва ў 14—1-й пал. 16 ст. былі сельскія і валасныя *абшчыны*, у рамках якіх кроўна-сваяцкія сувязі асобных сялянскіх сямей дапаўняліся саслоўнымі, грамадска-бытавымі і гаспадарчымі адносінамі. Жыхары абшчын усведамлялі сваю супольнасць і вызначалі сябе агульным сельскім ці валасным этніконам, які паходзіў ад назвы асобнага сяла і цэнтр. сядзібы воласці. У сваю чаргу сялянскае насельніцтва асобных валасцей аб'ядноўвалася вакол гарадоў і мястэчак у межах паветаў, княстваў, зямель, ваяводстваў у т. зв. *зямляцтвы*. Зямляцкая самасвядомасць вызначалася існаваннем этнікона-урбаніма, які супадаў з назвай менавіта гараджан (мяшчан) — жыхароў цэнтр. паселення (напр., мазыране, случане, мсціслаўцы, палачане і інш.). Зямляцкія этнанімічныя формы былі ўстойлівымі і ў самой Беларусі і за яе межамі. У 14—16 ст., калі значна ўзрасла актыўнасць этнасацыяльных сувязей паміж рознымі зямляцкімі супольнасцямі Беларусі, пачало ажыццяўляцца іх аб'яднанне ў выніку працэсаў этнагенетычнай кансалідацыі і агульнадзярж. інтэграцыі, што адлюстравалася ў пашырэнні этнонімаў *русіны* (рускія) і *літвіны*, якія паходзілі ад назваў Русь і Літва. Руссю (рускімі землямі) называлі ў той час амаль усю тэр. Беларусі, якая ўключала *Белую Русь*, *Чорную Русь* і *Палессе*. Насельніцтва гэтых зямель уяўляла сабой у цэлым аднародны этнічны масіў з агульнай рэлігіяй, этнічнай самасвядомасцю, з падобнымі элементамі культуры і моўнымі дыялектамі (што радніла яго і з суседнімі групамі ў Расіі і на Украіне). Кампактны арэал існавання назвы літвіны быў звязаны з тапонімам Літва, які бытаваў у раёнах Вілейкі, Смаргоні, Ашмян, Крэва, Маладзечна, Ліды і інш. (т. зв. Павілейская Літва). Гэтыя землі былі поліэтнічнымі і мелі ў сваім складзе ўсх.-слав. і балцкае насельніцтва. Разам з тым у 16—17 ст. Літвой і літвінамі называлі Вял. кн. Літоўскае і яго насельніцтва (Б., напр., называліся «літвіны рускага роду», «літвіны рускай веры», «літвіны-беларусцы», «літоўскія беларусы»). Структурна-іерархічная ўзаемасувязь розных этнанімічных форм адлюстравалася ў гіст. дакументах (напр., бел. першадрукар і асветнік Ф. Скарына называўся палачанінам, русінам і літвінам).

У гарадах і мястэчках Беларусі працэсы сацыяльнай арганізацыі насельніцтва характарызаваліся некаторымі асаблівасцямі. Гарады раслі ў асноўным за кошт сялянства, што абумовіла адносна хуткі прырост урбанізаванага насельніцтва ў грамадскай структуры феадальнай Беларусі і асабліва ў 15—16 ст., калі колькасць гарадоў і мястэчак інтэнсіўна павялічвалася (у канцы 16 ст. на Беларусі іх было больш за 300, а іх жыхары складалі каля 16—20 % ад усяго насельніцтва). Сацыяльна-эканам. і прававое становішча гарадоў і мястэчак Беларусі было розным. Побач з дзярж. існавалі прыватнаўласніцкія, прычым іх колькасць пастаянна павялічвалася. Многія гарады і мястэчкі карысталіся



Беларусы. Чарцёж Віцебска 1664 г.

магдэбургскім правам, згодна з якім насельніцтва было арганізавана ў своеасаблівыя урбанізаваныя абшчыны са сваімі органамі кіравання (радай-магістратам), судом, правамі і прывілеямі, што даваліся жыхарам з пэўным маёмасным і сацыяльным цэнзам (мяшчанам). Па меры сацыяльна-эканам. развіцця павялічвалася маёмаснае, прававое і саслоўнае размежаванне гарадскога насельніцтва на цэхавых рамеснікаў: цэхмайстроў (старэйшынаў), майстроў, чаляднікаў, вучняў, кутнікаў і партачоў (займаліся рамяством, але не ўваходзілі ў цэхавыя адзінкі); гандляроў, купцоў, перакупшчыкаў; «плебацееў» (беднакоў) — «лезных», «людзей убогіх» (жабракоў), «наймітаў», «парабкаў», «слуг», якія працавалі па найму і часта не ўваходзілі ў саслоўе мяшчан, не валодалі многімі правамі і прывілеямі. Ваеннаслужылыя слаі гараджан складаліся з зямян, панцырных і конных баяр, шляхты; да асобных катэгорый адносіліся духавенства і арыстакратыя. З іх асяроддзя выбіраліся прадстаўнікі на розныя кіруючыя гарадскія пасады (войты і інш.). Багатыя мяшчане прызначаліся на адказныя гарадскія пасады ніжэйшага рангу (лаўнікі, радцы, бурмістры і інш.). Асобныя групы гарадскога насельніцтва складалі прадстаўнікі інш. этнасаў (да 20—30 %): рускія, палякі, літоўцы, яўрэі, татары, немцы, латышы, караімы і інш. (найбольш стракаты нацыянальны састаў назіраўся ў зах. раёнах Беларусі). Поліэтнічнасць гарадоў і мястэчак абумоўлівала спецыфіку этнасацыяльнай, паліт. і канфесіянальнай арганізацыі гарадскога насельніцтва. Іншаэтнічнае насельніцтва часта не ўваходзіла ў катэгорыю мяшчан, а аб'ядноўвалася ў свае абшчыны з асобнымі правамі і прывілеямі. Асноўнымі іх заняткамі былі ваенная служба, гандаль, рамёствы і промыслы. Для этнаканфесіянальнага стану многіх гарадоў Беларусі характэрна раздзяленне мяшчанства на «рускую» і «лацінскую» часткі адпаведна іх веравызнанню.

Саслоўная арганізацыя асноўнай масы насельніцтва Беларусі 14—16 ст. — сялянства — залежала ад прававога і маёмаснага становішча. Сяляне дзяліліся на дзярж. і прыватнаўласніцкіх. Унутры гэтых груп існавалі некалькі катэгорый: даннікі, слабодзічы, айчычы, закупы, халопы, чэлядзь нявольная і інш., кожная з якіх мела неаднолькавыя правы. Напр., да перыяду актыўнага запрыгоньвання даннікі складалі самую шматлікую сялянскую катэгорыю. Яны былі арганізаваны ў сельскія

абшчыны і жылі гал. чынам на дзярж. (велікакняжацкіх ці каралеўскіх) землях. Другая шматлікая катэгорыя сялян — слабодзічы (вольнікі) — карысталася зямлёй па кантракту, які заключалі на пэўны тэрмін з феадаламі. Катэгорыя отчычаў у 15—16 ст. была ўжо прымацавана да зямлі, аднак іншы раз з дазволу феадала яны маглі пакідаць яго землі за пэўную плату. Асноўнай іх павіннасцю была паншчына. У катэгорыю закупаў насельніцтва трапляла за нявыплату пазыкі і па «закупу» (дагавору аб часовым найме за плату). Закупы былі, па сутнасці, прыгоннымі сялянамі, але па закону лічыліся свабоднымі. Поўнасцю ў прыгонным стане знаходзіліся халопы і чэлядзь нявольная. У 16 ст. ў Вял. кн. Літоўскім праведзены аграрныя рэформы. *Валочная памера* некалькі змяніла саслоўна-сацыяльную і гаспадарча-эканам. арганізацыю сялянства, якое стала складацца з трох асноўных катэгорый — *сяляне-слугі, асадныя сяляне* і *цяглыя сяляне.*

Розныя ўзроўні працэсаў этнічнага формаўтварэння, саслоўна-класавая і канфесіянальная дыферэнцыяцыя бел. народнасці адбіліся на разнастайнасці форм і элементаў яе культуры і побыту. Найбольшая колькасць новаўтварэнняў адносілася да 16 ст. Узнікалі і пашыраліся новыя формы і спосабы апрацоўкі зямлі, арганізацыі *земляробства.* Двухпольны севазварот паступова змяніўся трохпольным, што дало магчымасць у буйных феадальных гаспадарках вырошчваць збожжа на продаж. Паралельна з інтэнсіфікацыяй выкарыстання стараворыўных зямель праводзілася асваенне пад ворыва новых зямель. Асноўнай збожжавай культурай было жыта. Сеялі таксама авёс, проса, пшаніцу, грэчку, бабы, гарох, лён, каноплі, хмель, сачавіцу і інш. Сярод агародных і садовых культур найбольш распаўсюджаны капуста, морква, буракі, цыбуля, часнок, рэпа, рэдзька, мак, вішні, слівы, яблыкі, грушы. З землеапрацоўчых прылад на Беларусі пераважала саха для парнай валовай запрэжкі (аб шырокім арэале распаўсюджання ўскосна сведчаць яе лакальныя назвы — «палеская», «літоўская», «падляшская», «мазавецкая»). У Падзвінні і Верхнім Падняпроўі бытавала больш лёгкая конская саха. Пры падсечна-агнявой сістэме апрацоўкі зямлі сяляне карысталіся матыкамі, для рыхлення глебы — баронамі, сукаваткамі, смыкамі. Сеялі ўручную з сявенькі-лубянкі. Усе збожжавыя культуры жалі сярпом, сушылі і звозілі ў гумно, дзе малацілі цапамі, потым зерне веялі з дапамогай драўлянай веялкі-шуфліка, малолі на муку або абдзіралі на крупы.

Павелічэнне плошчы ворыўных зямель суправаджалася ўзнікненнем но-

Карта Вялікага княства Літоўскага (фрагмент) Т. Макоўскага. 1613.

вых пасяленняў на месцах, расчышчаных ад лесу («на сырым карані», «на сырым лесе»). Цяжкасці, звязаныя з асваеннем новых зямель, абумоўлівалі пасяленне спачатку невялікіх груп людзей 2—4 служб па 3—10 *дымоў* (сямей). Паступова новыя паселішчы разрасталіся, але рэдка дасягалі буйных памераў. Маладворны тып пасяленняў быў характэрны ў 16—17 ст. для ўсяго Вял. кн. Літоўскага. Дробныя пасёлкі перарасталі часам у больш буйныя, калі гэта не парушала аграрнай палітыкі ўрада. Памеры, характар узнікнення і інш. асаблівасці сельскіх пасяленняў знайшлі адлюстраванне ў іх дыферэнцыраваных вызначэннях, калі побач з вядомымі са старажытнасці назвамі сяло, сяльцо, весь, вёска, пагост у 15—17 ст. пачалі сустракацца і такія, як слабада, воля, волька, засценак, селішча. Асноўным тыпам планіроўкі новых сельскіх пасяленняў быў (за выключэннем засценкаў) вулічны, што адпавядаў дзярж. стандартнаму плану забудовы і найбольш пашырыўся пасля валочнай памеры. У старых сёлах побач з вулічнай існавала планіроўка бессістэмнага, або кучавога, тыпу. Для новых вёсак быў характэрны пагонны двор (рум), дзе жылы дом размяшчаўся ў адзін рад з гаспадарчымі пабудовамі (часта пад адным дахам) або ў 2 рады, удоўж адмераных валок зямлі. Варыянтам гэтага тыпу забудовы быў комплекс, у якім жылы дом стаяў на адным баку вуліцы, а гаспадарчыя будынкі — на другім. Вяночны тып забудовы сялянскіх двароў (уяўляў сабой замкнуты прамавугольнік) захаваўся ў асноўным на У Беларусі, дзе валочная памера не была праведзена поўнасцю.

Асноўным тыпам жылля сельскага насельніцтва была зрубная хата з двума памяшканнямі (двухкамерны — хата + сенцы). Будавалі хаты «на падрубе» (фундаменце) або «пры зямлі» (без фундамента). Вядома таксама і трохкамернае жыллё, якое складалася са святліцы (хаты), сянец і яшчэ аднаго жылога або гаспадарчага памяшкання (клеці, каморы, істопкі, хаты). Страху пакрывалі саломай, дранкай, гонтай. У жылых памяшканнях рабілі печы з комінам або без яго (дым з печы выходзіў праз дзверы і вокны — курная хата). Падлога была драўлянай (з плах), земляной або глінянай — аднаведна гаспадарчаму прызначэнню памяшкання і маёмаснага становішча гаспадара. Вокны рабілі невялікімі і закрывалі засаўкай, бычыным пухіром, радзей прамасленай паперай і вельмі рэдка шклом. Жылыя пабудовы заможнай шляхты былі значна большымі за сялянскія і мелі канструкцыйныя асаблівасці, якія адрознівалі іх ад традыцыйных сельскіх будынкаў. Жылыя дамы феадалаў часта былі шматкамернымі, часам двухпавярховымі (на падклеці), мелі ганак, шкляныя вокны, кафельныя печы (галандкі), якія прызначаліся толькі для абагрэву жылля, знадворныя галерэі на ўзроўні высока размешчаных акон і г. д. Комплекс пабудоў у багатых феадалаў уключаў стайні (канюшні), хлявы, аборы, валоўнікі (пабудовы для хатняй жывёлы і птушак), клеці, свірны, скарбіцы, спіжарні (для захавання збожжа), асеці і ёўні, гумны, адрыны, пуні, сеннікі, пякарні, піўніцы (скляпы), бровары (півварні), лазні, млыны, сырніцы (для сушкі сыроў), саладоўні (для вырабу соладу), алейні, лядоўні (ляграбы-халадзільнікі), корчмы, віндлярні і г. д. Акрамя жылога дома самога феадала і гаспадарчых будынкаў, у комплекс сядзіб уваходзілі і памяшканні для дваровых слуг.

У 14—16 ст. былі пашыраны *паляўніцтва, рыбалоўства, бортніцтва*, якімі займаліся цэлыя вёскі. У феадальных гаспадарках існаваў лесахімічны промысел (у *будах* драўніну перапрацоўвалі на вугаль, паташ, смалу, дзёгаць, попел). Пры некаторых дварах феадалаў існавалі буды шкляныя, дзе акрамя паташу і драўнянага вугалю выраблялі шкло. Амаль пры ўсіх буйных дварах і гаспадарках функцыяніравалі млыны, пераважна вадзяныя, з 1—2 (да 4) коламі. Вядомы і сезонныя млыны, што працавалі толькі ў час паводак (вяшняк-млын), і млыны з валовай цягай. З 15 ст. пачалі будаваць і ветракі.


БИВЛИЯ РУСКА
ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМЪ
ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
ИЗСЛАВНЯГО ГРАДА ПО
ЛОЦЬКА, БОГУ КОЧТИ И
ЛЮДЕМЪ ПОСПОЛИТЫМЪ
КДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ :-

**Беларусы.** Тытульны ліст «Бібліі» (1519) Ф. Скарыны.

Шырока распаўсюджаны быў і вінакурны промысел. Перавага неінтэграваных лакальных і натуральных форм гаспадарання ў эканоміцы Беларусі таго часу абумоўлівала існаванне ў кожным прыватнаўласніцкім і каралеўскім двары, у кожным горадзе і мястэчку адных і тых жа відаў рамесніцтва. У гарадах і мястэчках назіралася больш дробная спецыялізацыя — у 16 ст. налічвалася каля 200 рамесніцкіх спецыяльнасцей і прафесій (гл. таксама *Рамёствы і промыслы*).

У архітэктуры гарадоў і мястэчак назіраліся пэўныя асаблівасці, якія паступова складвалі урбанізаваны тып гэтых пасяленняў і далучалі іх да зах.-еўрапейскіх традыцый горадабудаўніцтва. У гарадах была значная колькасць каменных пабудоў (найбольш у зах. абласцях). У каменных канструкцыях прымянялі валуны, цэглу, гліну, вапну, дрэва. У 15—16 ст. атрымаў распаўсюджанне брукавы тып цэглы (т. зв. літоўскі). Выраблялі і вядомую са старажытнага часу плінфу. Каменныя будынкі ў гарадах былі пераважна абароннымі (замкі, крэпасці) і культавымі (касцёлы, цэрквы), радзей — жылымі, бытавымі і адміністрацыйнымі (ратушы, гасцінныя двары, цэхавыя дамы) памяшканнямі. Такія ж будынкі ўзводзілі і з дрэва. Дамы заможных гараджан і патрыцыяту былі часта 2-, 3-павярховымі. Дахі накрывалі саломай, гонтай, дранкай (з 16 ст. магістратам прадпісвалася замяняць саламяныя дахі драўлянымі ў супрацьпажарных мэтах). Гарадам таго часу ўласціва гал. чынам вулічная планіроўка. Шырока бытавала вядомая з даўніх часоў прамянёвая сістэма, калі асноўныя вуліцы пачыналіся ад аднаго з гарадскіх цэнтраў — замка, ратушы, рынку. Тып вулічнай сеткі абумоўліваў планіроўку плошчаў, кварталаў, гарадскіх раёнаў (сошчэнь, пасадаў, канцоў). У гарадах 1—2 разы ў тыдзень наладжвалі таргі, а на працягу года арганізоўвалі 1—2 вялікія *кірмашы*. Актыўны знешні гандаль гарадоў і мястэчак садзейнічаў пранікненню ў нар. метралагічную сістэму некаторых еўрапейскіх уніфікаваных эталонаў аб'ёму і вагі — барыл, фунт, беркавец, кварта і г. д.



Пётр Яўсеевіч з Галынца. Абраз «Нараджэнне маці боскай». 1649.

Да 16 ст. адносіцца з'яўленне некаторых відаў *адзення*, якія пазней сталі традыцыйнымі элементамі нар. касцюма — безрукаўка, кароткае верхняе адзенне, андарак, саян. У той жа час

бытавалі і больш старажытныя віды традыцыйнага адзення: панёва, фартух, запаска. Асновай і жаночага і мужчынскага касцюма была кашуля (сарочка). Мужчынскі касцюм дапаўняўся паясным (штаны, споднікі), плечавым (каftan) і верхнім (кажух, армяк, апанча, даламан, ферэзія) адзеннем. У жаночы касцюм таксама ўваходзіла плечавое і паяснае адзенне — сукня, андарак, фартух, летнік, юпа, спадніца. Жаночае верхняе адзенне, часта аналагічнае па назвах мужчынскаму, вызначалася гал. чынам фасонам і тыпамі крою. Касцюмы дапаўнялі розныя *галаўныя ўборы* — хустка, рантух, плахта, каптур, чапец, шлык, магерка, капялюш. Разнастайным па тыпах і відах быў *абутак*. З даўніх часоў на Беларусі бытаваў скураны абутак. Для сялянскага асяроддзя характэрнымі былі лапці, пашытыя са скуры або сплеценыя з лыка. Касцюм дапаўняўся рознымі паясамі, кашалькамі, упрыгожаннямі.

Аснову харчовага рацыёну насельніцтва 14—16 ст. складалі прадукты земляробства, агародніцтва, жывёлагадоўлі. Дадатковымі крыніцамі былі некаторыя промыслы, што давалі мёд, рыбу, мяса дзічыны, грыбы, арэхі, ягады. Ежа багатых саслоўяў рыхтавалася з дабаўленнем прывазных прыпраў — перцу, карыцы, імбіру, шафрану, міндалю, гваздзікі, анісу, лаўровага лісту. Соль прывозілі з Украіны, Крыма, Польшчы. Сярод напіткаў былі вядомы мёд, квас, піва і інш.

Фальклор Б. перыяду фарміравання народнасці складаўся ў цэлым з тых жа асноўных жанраў і элементаў, што бытавалі і ў 12—13 ст.— песні, магічныя заклінанні, звязаныя з язычніцкай абраднасцю, галашэнні, быліны, казкі, легенды, загадкі. Узнік і новы эпічны жанр — гіст. песні і паданні, галоўнай тэмай якіх была барацьба народа з іншаземнымі захопнікамі — немцамі, мангола-татарамі, а таксама з класавымі ворагамі — панамі-феадаламі, шляхтай. Шырока бытавалі лірычныя песні. Зліццём язычніцкіх і хрысціянскіх элементаў характарызаваліся ў той час многія абрады і звычаі, што былі звязаны з каляндарна-аграрнымі святамі і сямейна-бытавой абраднасцю.

Традыцыі перадаваліся ў спадчыну з пакалення ў пакаленне ў рамках *сям'і* — хавальніцы этычных і саслоўна-сацыяльных норм паводзін. Сямейна-сваяцкія і родавыя сувязі ляжалі ў аснове арганізацыі дымоў, часам — дворышчаў, асноўных гаспадарчых адзінак падаткаабкладання. Сем'і таго часу падзяляліся на малыя (складалася са шлюбнай пары і іх дзяцей) і вялікія (бацькоўскія, брацкія, уключалі прамых родзічаў 2—3 пакаленняў, сваякоў, якія мелі агульную маёмасць, вялі сумесную гаспадарку і лічыліся адным дымам). Распараджальнікам і галавой сям'і быў бацька, а ў выпадку яго смерці — маці (пры ўмове адсутнасці ў сям'і дарослага сына). Сямейна-бытавыя адносіны рэгламентаваліся на аснове звычаёвага і дзярж. сямейнага права (гл. ў арт. *Звычаёвае права*). У сям'і ажыццяўлялася першапачатковае выхаванне і адукацыя падлеткаў.

Са стараж.-рускага часу на Беларусі былі вядомы школы, у якіх атрымлівалі выхаванне і адукацыю дзеці пераважна заможных і знатных людзей. Школы існавалі пры манастырах і царквах, з 16 ст.— пры праваслаўных *брацтвах*. Навучальныя ўстановы ствараліся пры уніяцкіх брацтвах, пры шматлікіх ордэнах езуітаў, францысканцаў, бенедыкцінцаў і інш. Адукацыя гарадскога насельніцтва была звязана з агульнаеўрапейскімі традыцыямі. Многія элементы еўрапейскай культуры траплялі на Беларусь праз яе ўраджэнцаў, якія вучыліся ў вышэйшых навучальных установах Кракава, Прагі, Вены, Крулеўца (Кёнігсберга), Гейдэльберга і інш. Успрыняцце выхадцамі з Беларусі і Літвы еўрапейскіх тэндэнцый грамадскага развіцця садзейнічала станаўленню ў Вял. кн. Літоўскім першага гуманістычнага этапу бел.-літоўскай адукаванасці, пашырэнню сферы прафесійнай культуры. Разам з тым духоўная культура і грамадская думка ў 14—16 ст. характарызаваліся мясцовымі асаблівасцямі. У гэты час узнікае бел.-літоўскае летапісанне, якое грунтавалася на мясцовым гіст., грамадска-паліт., этнагр. і фальклорным матэрыяле («Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», Беларуска-літоўскі летапіс 1446, «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», Хроніка Быхаўца). Вяршыняй тагачаснай бел. літаратуры стала гуманістычная дзейнасць першадрукара, пісьменніка і мастака Ф. Скарыны, які ў перакладзе на старабел. мову выдаў Біблію (Прага, 1517—19; раней за нямецкі пераклад М. Лютэра). Паслядоўнікі Скарыны С. Будны і В. Цяпінскі былі актыўнымі дзеячамі бел. Рэфармацыі. З жыццём і побытам Б. знаёміў еўрапейскага чытача адзін з буйных слаў. паэтаў эпохі Адраджэння М. Гусоўскі. Вострыя праблемы грамадска-паліт. жыцця ставілі М. Сматрыцкі, Л. Карповіч, С. Зізаній, А. Філіповіч і інш. Найбліжэй да літаратуры па сваёй этнічнай самабытнасці быў тэатр. З 16 ст. вядомы школьны тэатр; папулярным у народзе быў лялечны тэатр *батлейка*. У 16 ст. распаўсюдзіліся бел. харавыя песні-гімны — канты і псалмы. Узнікла самабытная архітэктура: Мірскі, Навагрудскі, Лідскі, Крэўскі замкі, Мураванкаўская і Сынковіцкая цэрквы-крэпасці і інш. Склалася самабытная бел. іканапісная школа. На 16 ст. прыпадае росквіт драўлянай скульптуры і разьбы па дрэ-



**Беларусы.** Пачатак «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага». 16 ст. Румянцаўскі спіс.



Калонка іканастаса Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве (1683—85), выкананая беларускімі майстрамі.

ве, калі т. зв. бел. рэзь стала шырока вядома за межамі Беларусі.

Асноўным вынікам дзейнасці комплексу сацыяльна-эканам., паліт., этнічных працэсаў 14—16 ст. на Беларусі з'явілася складванне самастойнай усх.-слав. этнасацыяльнай супольнасці феадальнага тыпу — беларускай народнасці і яе асноўных *этнічных прыкмет* — мовы, культуры, самасвядомасці.

Перыяд 17—18 ст. быў найбольш цяжкім і складаным у гісторыі Б. Руска-польскія войны 1632—34 і 1654—67, Паўн. вайна 1700—21, шматлікія войны паміж магнатамі прывялі да сацыяльна-эканам. крызісу Рэчы Паспалітай, які завяршыўся яе трыма падзеламі (1772, 1793 і 1795). Абвастрэнне нацыянальна-класавых супярэчнасцей выклікала ўздым вызваленчай вайны укр. і бел. народаў 1648—54 (паўстанні ахапілі Пінск, Тураў, Мазыр, Кобрын, Слонім і інш.). У ваенныя часы рэзка знізілася колькасць насельніцтва, што разам з узмацненнем феадальна-прыгонніцкай эксплуатацыі і нацыянальна-рэлігійнага ўціску негатыўна паўплывала на развіццё бел. народнасці. Змяншэнне колькасці карэннага насельніцтва адбілася на характары этнічнага развіцця Б., на іх мове, культуры, самасвядомасці і інш. Арыентуючыся на польскую шляхту і не жадаючы ні ў чым ад яе адставаць, шляхта Вял. кн. Літоўскага была на працягу 17—18 ст. у асноўнай сваёй масе паланізавана. Бел. шляхта сумесна з укр., літоўскай і польскай складала своеасаблівую саслоўную метаэтнічную супольнасць Рэчы Паспалітай, асновай якой былі кампаненты польскай шляхецкай культуры, мовы, канфесіянальнай прыналежнасці і самасвядомасці.

Асноўная па колькасці сацыяльная частка бел. народнасці — сялянства, некаторыя групы гараджан, а таксама прадстаўнікі ніжэйшага і сярэдняга духавенства, дробнай і часткова сярэдняй шляхты — актыўна супрацьдзейнічала паланізацыі, што забяспечвала этнаэвалюцыйнае развіццё бел. народа. Дыферэнцыяцыя бел. культуры на культуру нар. мас і пануючых саслоўяў набывала ярка выражаную этнічную накіраванасць, калі менавіта народ захоўваў традыцыйнасць этнавызначальных прыкмет і абумоўліваў стабільнасць развіцця этнасу.

Эканам. развіццё бел. гарадоў у той перыяд тармазілася крывавымі войнамі, голадам, эпідэміямі, міграцыямі насельніцтва, а таксама расшырэннем фальваркава-паншчыннай сістэмы, эканам. прывілеямі магнатаў, шляхты і паліт. ладам Рэчы Паспалітай. Феадалы ўмешваліся ў справы магістратаў, парушалі прывілеі гараджан, незаконна абкладалі іх грашовымі паборамі. Паступова колькасць насельніцтва, што падпарадкоўвалася гарадскому самакіраванню, скарачалася. У канцы 17—2-й пал. 18 ст. на Беларусі адбываўся прыкметны працэс аднаўлення гарадоў і павелічэння колькасці іх насельніцтва за кошт лёзных людзей, сялян і яўрэяў (у Зах. і Цэнтр. Беларусі яўрэі складалі да 30—40 % гарадскога насельніцтва і да 50 % местачковага). Адпаведна росту таварнага рамяства ў часы аднаўлення гарадоў і мястэчак паглыблялася маёмасная дыферэнцыяцыя рамеснікаў і гандляроў. Павелічэнне таварнасці рамяства ўзмацніла залежнасць рамеснікаў ад гандлёвага капіталу і садзейнічала развіццю першапачатковых форм капіталістычнай вытворчасці. К канцу 18 ст. павялічылася колькасць прадпрыемстваў з наёмнымі работнікамі. Наёмная праца выкарыстоўвалася і на мануфактурах па вытворчасці сукна, палатна, шаўковых тканін, вырабаў са шкла, па апрацоўцы жалеза, якія з'явіліся ў гэты час у мястэчках і сельскіх феадальных гаспадарках. Аднак асноўнай рабочай сілай на мануфактурах заставаліся прыгонныя сяляне.

У 17—18 ст. пэўныя змены адбыліся і ў этнасацыяльным жыцці асноўнай масы насельніцтва Беларусі — сялянства, што было звязана перш за ўсё з узмацненнем феадальна-прыгоннай залежнасці сялян. Асноўным абавязкам цяглых сялян з'яўлялася паншчына, а чыншавых — грашовы аброк (чынш). Агароднікі таксама выконвалі павіннасці на паншчыне, сяляне-слугі займаліся промысламі і рамёствамі, прадукцыя з якіх ішла на патрэбу панскага ці каралеўскага двара і на продаж. У сувязі са скарачэннем або поўнай ліквідацыяй фальварковай гаспадаркі сяляне буйных каралеўскіх уладанняў, прыватна- і царкоўнаўласніцкіх гаспадарак пераводзіліся з адпрацовачнай рэнты на грашовую, г. зн. з цяглых — у аброчна-чыншавыя. У 17—18 ст. на ПнУ і У Беларусі і сумежных тэр. Смаленшчыны і Пскоўшчыны стабілізавалася назва Белая Русь, паступова ў шырокі ўжытак увайшлі паняцці беларускі край, беларускія гарады, беларуская мова, беларуская вера (уніяцтва).

Канфесіянальная сітуацыя заставалася стракатай. Сярод Б. было распаўсюджана праваслаўе, каталіцтва, уніяцтва і пратэстантызм. Значна ўзрастала колькасць католікаў і уніятаў. Падтрымка каралеўскім дваром каталіцкай царквы і патуранне ёй з боку магнатаў садзейнічала ўмацаванню на Беларусі розных каталіцкіх ордэнаў — дамініканцаў, езуітаў, францысканцаў, бенедзікцінцаў, кармалітаў і інш., якія актыўна падтрымлівалі уніяцтва. К канцу 18 ст. каталіцкае насельніцтва складала каля 15 % ад колькасці ўсіх жыхароў Беларусі, уніяты — 70 %, праваслаўныя — 6 %, іудзеі — 7 %, пратэстанты і інш.— 2 %. Працэс насаджэння каталіцтва і уніяцтва працягваўся і ў 18 ст. і быў звязаны з палітыкай паланізацыі, якая закранула і мову бел. насельніцтва (у 1696 было прынята рашэнне, што агульнадзярж. мовай будзе толькі польская мова). У 17—18 ст. неспрыяльныя сацыяльна-палітычныя фактары грамадскага жыцця Беларусі прывялі да рэзкага пагаршэння ўмоў развіцця духоўнай культуры народа. У гэты перыяд узрастала роля вуснай нар. творчасці, у пэўнай меры працягвалася і развіццё бел. літаратуры, філасофіі, навукі, мастацтва, асветніцтва, адукацыі і друкарства, звязаныя з імёнамі мысліцеляў, пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў — Сімяона Полацкага, К. Марашэўскага, Ф. Еўлашоўскага, К. Лышчынскага, І. Канявіча, Г. Каніскага, І. Быкоўскага, Б. Дабшэвіча, К. Нарбута.

*І. У. Чаквін.*



**Беларусы.** Магілёў. З гравюры 18 ст.

**Фарміраванне беларускай нацыі.** У канцы 18— пач. 20 ст. Б. ўступілі ў новы перыяд свайго развіцця, асноўны змест якога — працэс кансалідацыі ў нацыю буржуазнага тыпу. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай тэр. Беларусі ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. Гэта аб'ектыўна садзейнічала ўтварэнню перадумоў этнакансалідуючых працэсаў: моцная цэнтралізаваная ўлада спыніла феадальную анархію, скасавала шэраг магнацкіх прывілеяў, што стварыла больш спрыяльныя ўмовы для развіцця таварна-грашовых адносін — перадумовы нацыянальнай кансалідацыі.

Развіццё сельскай гаспадаркі было абумоўлена вялікім попытам на яе прадукцыю ў Зах. Еўропе. У памешчыцкіх гаспадарках павялічыліся пасяўныя плошчы пад збожжа, таварны лён, каноплі, а пазней і бульбу. Паступова намецілася спецыялізацыя розных рэгіёнаў па пэўных відах прадукцыі. Найбольш інтэнсіўна развіваліся паўн.-зах. і цэнтр. раёны Беларусі, што пазітыўна адбілася на сацыяльных і этнадэмаграфічных працэсах у гэтым рэгіёне. Паглыбленне таварна-грашовых адносін прывяло да павелічэння колькасці вотчынных мануфактур з выкарыстаннем працы прыгонных, а таксама купецкіх прадпрыемстваў з вольнанаёмнай працай. Палепшыліся шляхі зносін: у 1840— пач. 50-х г. на Беларусі пабудаваны ўчасткі Маскоўска-Варшаўскай і Пецярбургска-Кіеўскай шашы, завяршылася будаўніцтва Дняпроўска-Бугскага канала. Хутка развіваліся гарады, у якіх к канцу 50-х г. пражывала каля 10 % жыхароў (у 1825—58 іх колькасць падвоілася). Агульная колькасць насельніцтва з 1796 па 1858 павялічылася на 27,4 % і склала прыблізна 3,3 млн. чалавек.

Аднак развіццё краю ішло вельмі павольна. Айчынная вайна 1812 прывяла да часовага заняпаду гаспадаркі. Многія вёскі былі разбураны, у некаторых паветах загінула каля чвэрці мужчынскага насельніцтва. Эканам. нестабільнасць на працягу 1-й пал. 19 ст., частыя неўраджаі ва ўмовах агульнага крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы прывялі ў канцы 40 — 50-х г. да застою і нават спаду вытворчасці. Змены і ў сацыяльнай структуры грамадства адбываліся марудна. Аднак значная частка памешчыцкага дваранства паступова ўцягвалася ў таварныя адносіны, укладала грашовыя сродкі ў развіццё прамысловасці. Больш хутка адбывалася абуржуажванне шматлікай (да 5% насельніцтва) беспамеснай шляхты. Маёмасная дыферэнцыяцыя закранула частку прыгоннага, гал. чынам казённага, сялянства. Са збяднелага дваранства і духавенства пачала фарміравацца інтэлігенцыя. Цэнтрам падрыхтоўкі кадраў мясцовай інтэлігенцыі стаў Віленскі ун-т. У 1810—20-я г. тут у асяроддзі выкладчыкаў (М. К. Баброўскі, І. М. Даніловіч) і студэнтаў пачалося фарміраванне ідэй нацыянальнага адраджэння. На развіццё іх светапогляду вялікі ўплыў зрабілі ідэі слав., і асабліва чэшскага нацыянальнага адраджэння, з дзеячамі якога Баброўскі падтрымліваў асабістыя сувязі. Праграма віленскай групы інтэлігенцыі прадугледжвала аднаўленне сацыяльных функцый бел. мовы ў якасці дзяржаўнай у межах былога Вял. кн. Літоўскага (сябе яны вызначалі як ліцвіны). Заслуга групы ў тым, што яна паклала пачатак збіранню і публікацыі помнікаў бел. пісьменнасці 16—17 ст. Аднак у цэлым яны апярэдзілі свой час — утварэння сацыяльнай базы масавага нацыянальнага руху яшчэ не адбылося. У 1824 у выніку рэпрэсій дзейнасць групы была спынена.

Узнікненне нацыянальнай кансалідацыі было не адзіным этнічным працэсам, які вызначаў развіццё бел. этнасу ў пач. 19 ст. Пазбаўлены ўласнай дзяржаўнасці, ён быў безабаронны перад іншаэтнічным асіміляцыйным уздзеяннем. У 1-й трэці 19 ст. пры патуральніцтве царскай адміністрацыі значна ўзмацнілася апалячванне і акаталічванне карэннага насельніцтва. Польскія даследчыкі С. Ліндэ, Л. Галамбёўскі, А. Дамбоўскі, А. Нарушэвіч намагаліся тэарэтычна абгрунтаваць гэтую дзейнасць, разглядаючы Б. як этнагр. групу польскага народа. Пасля падаўлення паўстання 1830—31 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве царская адміністрацыя рэзка змяніла свае адносіны да краю. Быў створаны спецыяльны Камітэт па справах зах. губерняў. У дзярж. і навучальных установах забаранілі ўжыванне польскай мовы, замест яе ўводзілася руская. На Полацкім царкоўным саборы 1839 унія была скасавана, а уніяцкая царква далучана да рускай праваслаўнай. Працэс пераходу уніятаў у праваслаўе меў рэгіянальныя асаблівасці і на ПнЗ ажыццяўляўся прымусова. 18.7.1840 Мікалай І забараніў ужываць назвы Літва і Беларусь, у той жа час быў адменены Статут Вял. кн. Літоўскага. У афіцыйных выданнях і дзярж. дакументах пачаў ужывацца казённы тэрмін «Паўночна-Заходні край Расіі», а беларусаў сталі называць заходнярусамі. Адначасова пачалося афармленне т. зв. тэорыі *заходнерусізму*, паводле якой Б. лічыліся не самастойным этнасам, а адгалінаваннем рускага народа. Этнагр. асаблівасці, якія адрозвівалі Б. ад рускіх, тлумачыліся ўплывам паланізму і каталіцызму і падлягалі знішчэнню для аднаўлення нібыта «спрадвечна рускага характару краю». Заходнерусізм стаў не толькі ідэалогіяй, але і самасвядомасцю часткі праваслаўнага духавенства, чыноўніцтва, дваранства, а пазней і буржуазіі, у т. л. сельскай.

Нягледзячы на ўзмацненне русіфікацыі, культурнае жыццё Беларусі паранейшаму было звязана ў асноўным з польскай мовай. У 1840—50-я г. сярод шматлікага кола мясцовай інтэлігенцыі ўзнікла цікавасць да вывучэння фальклору і побыту карэннага насельніцтва і гіст. мінулага Беларусі. Паступова з польскамоўнага літаратурнага руху вылучылася т. зв. беларуская школа, творчасць прадстаўнікоў якой была прысвечана Беларусі. Асобныя творы Я. Чачота, А. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, У. Сыракомлі былі напісаны на бел. мове, а ў В. Дуніна-Марцінкевіча яна стала асноўнай. З Беларуссю было звязана выяўленчае мастацтва В. Ваньковіча, В. Дмахоўскага, Я. Дамеля і інш. А. Абрамовіч зрабіў першыя спробы стварэння нацыянальных музычных кампазіцый. Дзеячы літаратуры і мастацтва групаваліся вакол гурткоў А. Г. Кіркора ў Вільні, В. Дуніна-Марцінкевіча ў Мінску, А. Вярыгі-Дарэўскага ў Віцебску. Іх самасвядомасць і творчасць яшчэ не мелі ясна акрэсленага нацыянальнага зместу, але аб'ектыўна яны стваралі аснову бел. мастацкай культуры, якая служыла доказам патэнцыяльных магчымасцей нацыянальнага развіцця этнасу.

У час абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей у канцы 50— пач. 60-х г. сярод найбольш перадавых прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі сфарміравалася ўяўленне пра самастойнасць бел. этнасу і неабходнасць барацьбы за яго сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Выразнікам гэтай барацьбы быў рэвалюцыянер-дэмакрат К. Каліноўскі, ідэі якога зрабілі вялікі ўплыў на рэвалюцыйную і нацыянальную свядомасць бел. народа.

Але ў цэлым развіццё нацыянальнай кансалідацыі яшчэ слаба закранула этнас. Пераважная большасць акаталічанага і паланізаванага памешчыцкага дваранства ў паліт. адносінах паранейшаму арыентавалася на рэакцыйныя феадальна-клерыкальныя колы Польшчы. Дробная шляхта сваю этнічную прыналежнасць звязвала з канфесіянальнай: католікі адносілі сябе да палякаў, праваслаўныя — да рускіх. Аналагічным чынам вызначалі сябе мяшчане. Разам з тым на Гродзеншчыне некаторыя жыхары мястэчак свядома называлі сябе беларусамі. Этнічнае самавызначэнне інтэлігенцыі залежала гал. чынам ад яе паліт. арыентацыі. Пры гэтым большая частка яе, якая даволі дакладна ўсведамляла сваю «мясцовасць», аддавала перавагу, нягледзячы на веравызнанне, польскай дэмакратычнай культуры. Адносна невялікая частка чыноўніцтва атаясамлівала сябе з рускімі. У найбольшай ступені сістэма этнанімічных назваў, якая склалася ў 16—18 ст., захоўвалася сярод большай часткі этнасу — прыгоннага сялянства. Але і тут адбыліся некаторыя змены. Так, этнанімічная назва ліцвіны была распаўсюджана сярод карэннага насельніцтва Гродзенскага, Ваўкавыскага, Слонімскага, часткова Слуцкага паветаў. У Віленскай губ., у Мінскім, Дзісенскім і Барысаўскім пав. ліцвінамі называлі толькі католікаў, а праваслаўных — Б. Захоўваліся і этнанімікія этніконы. На тэрыторыі стабільнага бытавання тапанімічнага этноніма Б.— у Падняпроўі і верхнім Падзвінні — існавалі урбаністычныя этніконы (віцебцы, магілёўцы, гомельцы). У Слуцкім пав. насельніцтва некалькіх дзесяткаў паселенняў называлі чарнарусамі. Па-ранейшаму мясцовыя назвы тыпу пінчукі, бужане і інш. былі распаўсюджаны сярод карэннага насельніцтва Палесся.

Развіццё капіталістычных адносін у канцы 18 — пач. 19 ст. адбілася на культуры бел. сялянства. Пашырэнне новых с.-г. культур, у прыватнасці бульбы, прывяло да з'яўлення новых відаў земляробчай тэхнікі. Прагрэсіў-

ныя змены закранулі жыллё. Усё часцей сустракаліся хаты з комінамі. Асноўнымі с.-г. прыладамі па-ранейшаму аставаліся драўляная двухзубая саха, плеценая або брусковая барана, каса, серп, граблі. Адзенне сялянства было даматканым і самаробным, абутак — ліпавыя і лазовыя лапці. Асноўнае месца ў духоўным жыцці сялянства займаў фальклор, у якім адлюстраваліся падзеі сацыяльнага і палітычнага жыцця народа.

Паражэнне паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве адкінула этнас у нацыянальным развіцці на некалькі дзесяцігоддзяў назад. Лепшыя прадстаўнікі дэмакратычнай інтэлігенцыі загінулі ў час ваенных дзеянняў або былі пакараны смерцю, тысячы сасланы ў Сібір. Царская адміністрацыя ўстанавіла на Беларусі жорсткі ваенна-паліцэйскі рэжым: было забаронена друкаваць бел. кнігі лацінкай. Пад выглядам барацьбы з «паланізмам» рэзка ўзмацнілася русіфікацыя краю. Руская мова стала пануючай ва ўсіх галінах грамадскага жыцця. У сваёй палітыцы царскі ўрад актыўна выкарыстоўваў праваслаўную царкву і нар. асвету на рускай мове. Узмацніўся ціск на каталікаў, прымусова зачыняліся каталіцкія храмы і кляштары, адначасова было разгорнута масавае будаўніцтва праваслаўных цэркваў.

Сялянская рэформа 1861, нягледзячы на сваю абмежаванасць, стварыла асноўныя перадумовы для развіцця капіталістычных адносін. Трансфармавалася структура сельскай гаспадаркі (з пач. 80-х г. галоўнай галіной не стала малочная жывёлагадоўля). У севазвароце замест збожжавых асноўнае месца займалі тэхнічныя культуры. Узмацнілася сувязь сельскай гаспадаркі з унутраным і агульнарасійскім рынкам. Рост таварна-грашовых адносін разбураў патрыярхальны лад у вёсцы і выклікаў сацыяльнае расслаенне сялянства. Усё большае значэнне ў вытворчасці набывала прамысловасць (вінакурная, лесапільная, дрэваапрацоўчая, харчовая), а таксама чыгуначны транспарт, які звязаў Беларусь з усёй краінай і Зах. Еўропай. Хутка расло насельніцтва ў буйных гарадах і мястэчках. Асабліва ўзрасла роля Мінска як галоўнага эканам., гандлёвага і прамысловага цэнтра Беларусі. Развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы ішло па т. зв. прускаму шляху. Памешчыцкае землеўладанне захоўвалася ў асабліва буйных памерах, у той жа час дробныя надзелы сялянства не маглі задаволіць яго патрэб (55 % усіх зямель належала памешчыкам, 11,3 % царкве і казне). Абвастралася аграрнае перанаселенне. У 2-й пал. 70 — пач. 80-х г. пастаянна ўзнікалі сялянскія хваляванні.

Становічую ролю ў развіцці бел. нацыянальнага руху адыграў агульнарасійскі вызваленчы рух. У 70-я г. ва ўсіх буйных гарадах узніклі народніцкія гурткі, якія ў пач. 80-х г. аб'ядналіся ў Паўн.-Зах. арганізацыю «Народная воля». У Пецярбургу была створана група «Гоман» — першая палітычная арганізацыя бел. нацыянальнай інтэлігенцыі, якая адстойвала перш за ўсё інтарэсы шматмільённага сялянства. У нацыянальным руху народнікі бачылі сродак барацьбы з сацыяльнай несправядлівасцю. Народніцтва па сваёй сутнасці было сялянскай ідэалогіяй і таму невыпадкова, што яно набыло нацыянальны характар. Бел. народніцтва не было сацыяльна аднароднай з'явай. У ім прасочваліся буржуазна-ліберальная, асветніцкая («Пісьмы пра Беларусь» Д. Баравіка) і рэвалюцыйная плыні (органам апошняй стаў часопіс «Гомон»). Гоманаўцы ўпершыню абвясцілі пра існаванне самастойнага бел. этнасу і сваёй прыналежнасці да яго і сфармулявалі дакладную паліт. праграму. Характэрна, што бел. рэвалюцыйныя народнікі лічылі магчымым дамагчыся сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці толькі ў выніку звяржэння самадзяржаўя ў саюзе з усімі народамі Расіі і стварэння федэратыўнай дзяржавы.



ГОМОН

Бѣлорусское соціально-революціонное обозрѣніе

№ 1

Содержаніе

| | |
|---|---|
| От редакціи. | Корреспонденція из Вильны. |
| Роль мѣстных революц. групп. | " " " Петербурга. |
| Воззваніе к Бѣлорус. интеллиг. | " " " Кіева. |
| Воззваніе конституціоналистов. | " " " Витебска. |
| Общество „освобожд. труда" | " " " Харькова. |

- 1884 -

Беларусы. Вокладка часопіса «Гомон».

У 2-й пал. 1880 г. пачалася дзейнасць групы ліберальнай інтэлігенцыі ў Мінску, якая складалася з вучоных М. В. Доўнар-Запольскага, У. З. Завітневіча, А. І. Слупскага, паэта Я. Лучыны і інш., якія імкнуліся пашырыць агульнаэтнічную самасвядомасць легальнымі сродкамі. На старонках першай на Беларусі неафіцыйнай газ. «Минский листок», а таксама ў «Календарах» (1889—93) друкаваліся артыкулы пра бел. этнас, яго гісторыю і мову, творы Лучыны і Дуніна-Марцінкевіча. Пасля доўгага перапынку зноў бел. друкаванае слова выйшла ў свет кірыліцай. Нягледзячы на пэўную абмежаванасць зместу, абумоўленую цэнзурай, гэтыя выданні садзейнічалі абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці. Вядома, напр., што знаёмства з вершамі Лучыны, якія распаўсюджваліся ў рукапісах, адыграла значную ролю ў звароце Я. Коласа да творчасці на бел. мове. Яшчэ ў большай ступені пашырэнню агульнаэтнічнай самасвядомасці служылі творы Ф. Багушэвіча, у якіх на ўвесь голас гучалі матывы нацыянальнага адраджэння.

Вялікае значэнне мела дзейнасць шматлікіх збіральнікаў і даследчыкаў фальклору, лінгвістаў і этнографаў. У 2-й пал. 19 ст. былі выдадзены грунтоўныя даследаванні І. І. Насовіча («Слоўнік беларускай гаворкі», 1870), М. Я. Нікіфароўскага («Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку», 1895), Я. Ф. Карскага («Агляд гукаў і форм беларускай мовы», 1885), П. В. Шэйна («Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», т. 1—2, 1887—93), першыя пяць выпускаў «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава (1886—91) і г. д. Каштоўны матэрыял для вывучэння бел. мовы і культуры, сабраны ў гэтых працах, пераканаўча сведчыў аб тым, што Б. з'яўляюцца самастойнай этнічнай адзінкай. Гэтым самым абвяргаліся сцвярджэнні польскіх і рускіх шавіністаў пра гіст. неперспектыўнасць развіцця бел. мовы і нацыянальнай культуры. Дасягненні бел. навукі адлюстроўвалі ўзмацненне кансалідуючых працэсаў і адначасова былі адной з найважнейшых крыніц фарміравання нацыянальнай самасвядомасці.

Да канца 19 ст. сацыяльная база нацыянальнай кансалідацыі значна пашырылася. Згодна з перапісам 1897, колькасць Б. (у сучасных межах БССР) склала каля 4,8 млн. чал.— 74 % насельніцтва, у т. л. 13,6 % з іх (650 тыс. чал.) былі пісьменнымі і свядома ўказалі роднай мовай беларускую. Агульнаэтнічная самасвядомасць пашыралася сярод прадстаўнікоў пануючага класа. Характэрна, што Б. сябе прызналі 43 % саслоўя дваран. Роднай мовай беларускую лічылі 40 % чыноўнікаў, 10 % юрыстаў, 20 % дактароў, 29 % паштова-тэлеграфных служачых, 60 % настаўнікаў. Сярод шматмільённага сялянства быў ужо даволі шырока распаўсюджаны этнонім Б., які выцесніў шэраг этнанімічных назваў тыпу ліцвіны, чарнарусы і інш. Але ён яшчэ не меў агульнаэтнічнага зместу і асэнсоўваўся як тапонім. Таму поруч з ім ужываліся канфесіянімы (палякі і рускія), а жыхары паўн.-зах. і цэнтр. часткі Беларусі нярэдка называлі сябе тутэйшымі.

Значнай перашкодай на шляху нацыянальнай кансалідацыі Б. была палітыка царскага ўрада на русіфікацыю краю. Найбольш інтэнсіўна гэты працэс ішоў у гарадах, дзе ўдзельная вага Б. знізілася, а ў цэлым па Беларусі — ва ўсх. і паўн.-ўсх. яе частках. Поруч з асіміляцыйнымі тэндэнцыямі пашыраліся і інтэграцыйныя. У шматлікім патоку мігрантаў з Расіі ў 2-й пал. 19 ст. былі не толькі паны і чыноўнікі, але і значны атрад рабочых, гал. чынам чыгуначнікі. Штогод узрастала колькасць беларусаў-адыходнікаў, асабліва з Усх.

Беларусі, якія накіроўваліся ў буйныя прамысловыя цэнтры Расіі. Сумесная барацьба працоўных супраць прыгнечання садзейнічала росту сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці, у працэсе працоўнай дзейнасці адбываўся інтэнсіўны абмен этнакультурнай інфармацыяй. Пад уплывам інтэграцыйных тэндэнцый у культуры і мове бел. этнасу адбыліся пэўныя змены: значна павялічылася колькасць запазычанняў з рускай мовы, якія выцеснілі польскія словы, шырокае распаўсюджанне набылі рускія народныя песні, танцы і г. д. Уплыў рускіх традыцый назіраўся ў характары архітэктурнай разьбы на Магілёўшчыне (гл. *Веткаўская разьба)*.

Значныя змены адбыліся ў традыцыйнай планіроўцы сялянскага двара і жылога комплексу. Сяляне ўсё шырэй карысталіся фабрычнымі і самаробнымі плугамі, у нар. адзенні з'явіліся фабрычныя тканіны і абутак, у харчаванні — новыя стравы. Аднак гэтыя змены закранулі гал. чынам заможныя слаі вясковага насельніцтва. Асноўная ж маса сялянства ў сваім паўсядзённым жыцці карысталася традыцыйнымі прыладамі працы, забяспечвала сябе паўсядзённымі прадметамі ўжытку рамеснага вырабу. Пэўныя змены адбыліся і ў фальклоры. Паступова страцілі сваё былое значэнне замовы, магічныя дзеянні. Набылі сацыяльную вастрыню і большую рухомасць такія віды фальклору, як прыпеўкі, анекдоты. Сацыяльнае гучанне атрымалі песні, казкі, вусныя нар. апавяданні. З павелічэннем колькасці і ростам сацыяльнай самасвядомасці рабочага класа ўзнік рабочы, а потым і рэвалюцыйны фальклор, які не толькі адлюстроўваў сацыяльна-вызваленчы рух, але і садзейнічаў яго развіццю.

Асновай развіцця выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва асталіся рамёствы і промыслы. Мастацкай апрацоўцы падвяргаліся драўляныя, металічныя, касцяныя і керамічныя вырабы. Шырокае распаўсюджанне мелі ўзорнае ткацтва, вышыўка, вязанне, пляценне з лазы, саломкі, карэння. Асаблівым этнічным каларытам выдзялялася нар. музычнае мастацтва. Развівалася і нар. тэатральнае мастацтва. Тэатральныя сцэнкі і сюжэты ўпляталіся ў каляндарныя абрады калядавання, гукання вясны, купалля, нар. гульняў («Жаніцьба Цярэшкі», «Жораў», «Таўкачыкі», «Яшчур», «Шасток» і інш.). Своеасаблівы этнічны каларыт мелі нар. драма, батлейка.

У пач. 20 ст. развіццё нацыянальнай кансалідацыі Б. значна паскорылася. У 1902 на аснове шматлікіх культурна-асветніцкіх гурткоў моладзі Вільні, Гродна, Мінска была створана Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ) — дробнабуржуазная нацыянальная партыя леванародніцкага кірунку. Узнікненне арганізаванай нацыянальна-вызваленчай барацьбы было ў першую чаргу абумоўлена ўплывам агульнарасійскага рэвалюцыйнага руху, які ўступіў у пралетарскі перыяд свайго развіцця. У канцы 19 — пач. 20 ст. на Беларусі паскорылася развіццё прамысловасці, узнік шэраг дрэваапрацоўчых, папяровых, сілікатных, цагельных і машынарамонтных прадпрыемстваў. Фарміраваліся кадры пралетарыяту. У канцы 19 ст. яго колькасць дасягала 430 тыс. чал., а ў 1913—500 тыс. чал. У 80-я г. 19 ст. з'явіліся першыя рабочыя марксісцкія гурткі. У 1898 у Мінску адбыўся 1 з'езд РСДРП, які абвясціў стварэнне рэвалюцыйнай партыі класа. Шырокае распаўсюджанне мелі ленінская «Искра», працы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна. Палескі і Паўн.-Зах. камітэты РСДРП мелі свае падпольныя друкарні, якія выдавалі нелегальную літаратуру. Бальшавікі прапагандавалі ідэі марксізму-ленінізму, згуртоўвалі нар. масы на рэвалюцыйную барацьбу. Арганізаваны бел. нацыянальна-вызваленчы рух, такім чынам, зарадзіўся ў той час, калі галоўную ролю ў барацьбе за сацыяльны прагрэс адыгрывала ўжо не буржуазія, а рабочы клас, і марксісцкая ідэалогія заваёўвала ўсё больш прыхільнікаў сярод шырокіх нар. мас. Гэта садзейнічала прытоку шматлікай разначыннай інтэлігенцыі, якая ўтварыла рэвалюцыйна-дэмакратычную плынь БСГ і адстойвала сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы бяднейшага сялянства. Ідэйнымі кіраўнікамі і выразнікамі гэтага кірунку былі пісьменнікі-дэмакраты Цётка, Купала, Колас і інш.

У выніку развіцця нацыянальна-вызваленчага руху былі створаны бел. выдавецкія суполкі, перыядычны друк. Пэўныя ўмовы для іх легальнага развіцця з'явіліся ў часы Рэвалюцыі 1905—07. За перыяд з 1907 па 1916 бел. выдавецкія т-вы «Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша хата» і інш. выдалі на бел. мове 179 кніг агульным тыражом каля 286 тыс. экземпляраў. Неабходны ўзровень стабільнасці функцыяніравання набыла нацыянальная прафесійная культура. Найбольш развівалася літаратура і асабліва паэзія, якая, паводле М. Багдановіча, «за восем-дзевяць год свайго праўдзівага існавання... прайшла ўсе шляхі, а пачасці і сцежкі, каторыя паэзія еўрапейская пратаптывала болей ста год» (Зб. тв. Мн., 1968. Т. 2. С. 167), а таксама — драматургія. Цэнтр. фігурамі літаратурнага працэсу былі Я. Купала і Я. Колас — заснавальнікі і класікі бел. сав. літаратуры. Поплеч з імі працавалі такія таленавітыя майстры, як Цётка, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, Ц. Гартны, З. Бядуля і інш. У цеснай сувязі з літаратурай развіваліся і іншыя віды прафесійнай культуры. У 1910 у Вільні была заснавана Першая бел. трупа І. Буйніцкага (з 1907 існавала як аматарская), якая выступала ў гарадах і мястэчках Беларусі і за яе межамі. Збіраннем і апрацоўкай нар. песень займаліся кампазітары А. Грыневіч, М. Чуркін, У. Тэраўскі і інш. Яскравым адлюстраваннем нацыянальных ідэй у выяўленчым мастацтве стала творчасць Я. Драздовіча. Характэрнай рысай усёй бел. нацыянальнай прафесійнай культуры таго часу было абуджэнне агульнаэтнічнай самасвядомасці. Значную ролю ў гэтым працэсе адыгрываў перыядычны друк, асабліва першыя бел. газ. «Наша доля» (выходзіла ў 1906) і «Наша ніва» (1906—15). Рэдакцыя «Нашай нівы» была своеасаблівым культурным цэнтрам, вакол якога групаваліся дзеячы бел. мастацкай культуры. Газета мела шырокую сетку карэспандэнтаў па ўсёй Беларусі і за яе межамі (за першыя тры гады існавання ў ёй было змешчана 906 карэспандэнцый з 489 вёсак і мястэчак, а за адзін толькі 1910—666 допісаў 427 карэспандэнтаў з 321 мясціны). У газеце змяшчаліся артыкулы і творы як буржуазна-лібе-




**Беларусы.** Гомель. Рынкачная вуліца. Здымак 1911.

ральнага, так і рэвалюцыйна-дэмакратычнага зместу. У перыяд, калі рэдактарам быў Я. Купала, пераважалі апошнія. У «Нашай ніве» ніколі не друкаваліся адкрыта нацыяналістычныя лозунгі. Поруч са здабыткамі маладой бел. літаратуры ў ёй чытачы маглі пазнаёміцца з творамі Л. Талстога, А. Чэхава, М. Горкага, А. Міцкевіча, Э. Ажэшкі, Т. Шаўчэнкі і інш. класікаў сусветнай літаратуры. Важнай формай распаўсюджання бел. мастацкай культуры сталі бел. вечарынкі — аматарскія тэатралізаваныя прадстаўленні, якія арганізоўваліся ў Вільні, Гродне, Полацку, Слуцку, Капылі, Дзісне, Давыд-Гарадку, Красным, Карэлічах, а таксама ў Пецярбургу, Тамбове і інш. гарадах, дзе жылі Б. У вер. 1913 у Вільні была праведзена буйная бел. саматужная этнагр. выстаўка. Развіццё нацыянальнай прафесійнай культуры садзейнічала кадыфікацыі бел. мовы, выпрацоўцы правапісных, граматычных і лексічных норм. У 1908—10 былі спробы стварэння прыватных бел. школ. Я. Колас і Цётка выдалі буквары для пачатковага навучання на бел. мове. Значную ролю ў пашырэнні агульнаэтнічнай самасвядомасці адыгрывалі працы па бел. этнаграфіі — «Беларусы» (т. 1—3, 1903—22) Я. Ф. Карскага, «Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні» (вып. 1—2, 1911—12) і «Беларускі зборнік» (вып. 7—9, 1910—12) Е. Р. Раманава, «Беларусы-сакуны» (1915) І. А. Сербава і інш.

Галоўным арэалам кансалідацыі бел. нацыі сталі цэнтр. і паўн.-зах. часткі Беларусі (Лідскі, Дзісенскі, Ашмянскі, Вілейскі, Гродзенскі, Ваўкавыскі, Слонімскі, Навагрудскі, Слуцкі і Мінскі пав.). Гэта быў эканамічна, сацыяльна і палітычна найбольш развіты рэгіён Беларусі. Яшчэ ў канцы 19 ст. У. І. Ленін адносіў яго да ліку тых, дзе пераважала капіталістычная сістэма ў сельскай гаспадарцы. Тут пражывала значная колькасць абуржуажанай шляхты, а адсутнасць абшчыннага землеўладання садзейнічала хуткаму расслаенню сялянства і ўзнікненню даволі шматлікай нацыянальнай аграрнай буржуазіі. Пэўную ролю адыгрывала і тое, што ў гэтым рэгіёне была сканцэнтравана большая частка бел. каталіцкага насельніцтва. У некаторых паветах, напр. у Ашмянскім, удзельная вага католікаў дасягала 64 %. З аднаго боку, каталіцкае насельніцтва адчувала моцны ціск палітыкі царскай адміністрацыі, з другога — эканам. інтарэсы непазбежна сутыкалі яго з польскімі і паланізаванымі памешчыкамі. У паўн.-зах. і цэнтр. рэгіёнах знаходзілася таксама большасць бел. пісьменнага насельніцтва (пісьменнасць сярод мужчын складала ў канцы 19 ст. 25—36 %, а ў 1913 дасягнула 70 %). Невыпадкова тут пражывала каля 70 % карэспандэнтаў «Нашай нівы». У пэўнай ступені развіццё нацыянальнай кансалідацыі






**Беларусы.** Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага ў час выступлення на этнаграфічным вечары ў Пецярбургу, 1912, і афіша паказу трупы ў Ашмянах, 1911.

закранула насельніцтва Зах. Палесся. У пачатку 20 ст. і гал. чынам пасля Рэвалюцыі 1905—07 сярод жыхароў гэтага рэгіёна стала пашырацца ўсведамленне таго, што іх край адносіцца да Беларусі і самі яны з'яўляюцца Б. Пры гэтым яны захоўвалі не толькі мясцовую моўную і культурную спецыфіку, але і асэнсоўвалі сваё адрозненне ад «чыстай Беларусі». Насельніцтва зах. часткі Палесся падтрымлівала сувязі з цэнтрамі бел. нацыянальна-вызваленчага руху, тут было шмат карэспандэнтаў «Нашай нівы». Важнае значэнне для распаўсюджання дасягненняў бел. нацыянальнай культуры мела бібліятэка імя Ф. Ф. Паўленкава ў в. Астрамечава (Брэсцкі р-н) — адна з першых бясплатных нар. бібліятэк. У той жа час у Цэнтр. і Усх. Палессі нацыянальныя працэсы развіваліся марудна. Спецыфічныя прыродна-геаграфічныя ўмовы гэтага рэгіёна былі значнай перашкодай на шляху прагрэсіўнага эканам. развіцця. Многія групы насельніцтва жылі ізалявана, што спрыяла захаванню шматлікіх рэштак патрыярхальнага ўкладу. Таму ў нацыянальна-вызваленчым руху прымала ўдзел толькі частка насельніцтва павятовых цэнтраў і буйных мястэчак, якія знаходзіліся каля чыгункі або рачных шляхоў зносін.

Марудна адбывалася развіццё нацыянальнай кансалідацыі і ў Паўн.-Усх. і Усх. Беларусі. У эканам. адносінах гэты рэгіён адставаў ад паўн.-зах. і цэнтр. раёнаў. Тут існавалі шматлікія перажыткі феадальна-прыгонніцкай сістэмы гаспадаркі, а таксама абшчыннае землеўладанне. У сувязі з малазямеллем з Магілёўшчыны і ўсх. часткі Віцебшчыны шмат насельніцтва перасялялася за межы Беларусі, тут больш было развіта *адыходніцтва*. Канфесіянальны склад насельніцтва вызначаўся адметнай перавагай праваслаўных. Удзельная вага католікаў вар'іравалася ад 0,5 % да 5 % насельніцтва. Пэўнае значэнне мела і тое, што Падняпроўе і Верхняе Падзвінне ўвайшлі ў склад Расійскай дзяржавы значна раней астатняй Беларусі, таму і ўплыў рускай культуры тут быў больш працяглым. Сярод прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі і буржуазіі пашыралася ідэалогія заходнерусізму. У выніку развіцця асіміляцыйных тэндэнцый удзельная вага бел. насельніцтва Магілёўскай губ. ў 1897—1913 знізілася з 82 % да 50,3 %, што безумоўна стрымлівала працэс агульнаэтнічнай кансалідацыі. Узмацненне асіміляцыйных тэндэнцый у пачатку 20 ст. назіралася ў інш. частках Беларусі. У перыяд спаду Рэвалюцыі 1905—07 адбылося арганізацыйнае афармленне руху прыхільнікаў ідэалогіі «заходнерусізму». У Вільні ўзніклі т-вы «Селянін», «Ускраінная грамадства», «Беларускае грамадства», у якія ўваходзілі буйныя чыноўнікі і інтэ-

лігенцыя. Гэтыя арганізацыі мелі ўласныя перыядычныя выданні, а іх дзейнасць абапіралася на падтрымку царскай адміністрацыі і была накіравана гал. чынам на барацьбу з бел. нацыянальна-вызваленчым рухам. У пач. 20 ст. значна ўзрасла пагроза асіміляцыі і з боку польскіх памешчыцка-клерыкальных колаў, якія захоўвалі даволі моцныя пазіцыі ў эканоміцы і спадзяваліся пры дапамозе паланізацыі затрымаць развіццё сацыяльнай барацьбы бел. сялянства за зямлю. Пасля 1905, калі была знята забарона пераходу з адной канфесіі ў другую, у каталіцтва з праваслаўя перайшло некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Вярхушка каталіцкага кліру была варожа настроена супраць бел. нацыянальна-вызваленчага руху, супраць яго прыхільнікаў сярод каталіцкіх святароў. Пашырэнню паланізацыі спрыяла таксама ўзнікненне шматлікіх польскіх нелегальных школ, культурна-асветніцкіх т-ваў. Павялічвалася таксама колькасць польскага насельніцтва ў Беларусі за кошт перасяленцаў з Польшчы, якім памешчыкі прадавалі зямлю на льготных умовах.

У гэтай сітуацыі бел. нацыянальна-вызваленчы рух меў, безумоўна, прагрэсіўны характар. Таму У. І. Ленін у 1916 адзначаў, што ў беларусаў «няма яшчэ завяршэння нацыянальнага руху, што прабуджэнне мас да валодання роднай мовай і яе літаратурай — (а гэта неабходная ўмова і спадарожнік поўнага развіцця капіталізму, поўнага пранікнення абмену да апошняй сялянскай сям'і) — тут **яшчэ** адбываецца. «Бацькаўшчына» тут **яшчэ** не адспявала ўсёй сваёй гістарычнай песні. «Абарона бацькаўшчыны» **яшчэ** можа быць тут абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць прыгнятаючых нацый, супраць сярэдневякоўя...». (Тв. Т. 23. С. 27—28).

У канцы 1916—17 фарміраванне бел. нацыі буржуазнага тыпу ўступіла ў апошні заключны перыяд свайго развіцця. Яго характэрнай рысай стаў распад знешняга адзінства нацыянальна-вызваленчага руху, ідэйная і арганізацыйная дыферэнцыяцыя яго прадстаўнікоў. Гэтыя з'явы былі абумоўлены абвастрэннем сацыяльных супярэчнасцей у краіне, якое выклікала першая сусветная вайна. У выніку ваенных дзеянняў частка тэр. Беларусі была акупіравана германскімі войскамі. У Расію і на Украіну перасялілася з Беларусі звыш мільёна бежанцаў. У іншаэтнічным асяроддзі сярод іх хутка пашыралася нацыянальная самасвядомасць.

Бел. нацыянальна-вызваленчы рух станавіўся значнай паліт. сілай. Восенню 1917 буйнейшая дробнабуржуазная нацыянальная партыя — Беларуская сацыялістычная грамада — налічвала каля 10 тыс. членаў. Адначасова ў ёй ішло актыўнае размежаванне ліберальна-буржуазнага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірункаў. На аснове апошняга ў Петраградзе ўзнікла Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (БСДРП; узначальваў А. Р. Чарвякоў), якая кіравалася ў сваёй дзейнасці праграмай бальшавіцкай партыі, трымалася яе тактыкі.

Узмацненне нацыянальна-вызваленчага руху выклікала значныя змены ў самасвядомасці пануючых класаў. Сярод буйных памешчыкаў, чыноўнікаў, святароў, генералаў і афіцэраў царскай арміі стала хутка пашырацца нацыянальная ідэалогія. Яны спадзяваліся захапіць кіраўніцтва ў бел. нацыянальна-вызваленчым руху, пазбавіць яго дэмакратычнага зместу, выкарыстаць у барацьбе са сваім галоўным праціўнікам — рабочым класам і яго бальшавіцкай партыяй. Хутка ўзнікалі розныя паліт. арганізацыі — Беларуская партыя народных сацыялістаў, Беларуская хрысціянская дэмакратыя. Да іх далучылася крыло БСГ, якое стала на нацыяналістычныя пазіцыі. Іх прадстаўнікі ўвайшлі ў так званы Беларускі нацыянальны камітэт, які ўзяў курс на стварэнне буржуазнай аўтаноміі Беларусі ў рамках федэратыўнай Расійскай дзяржавы. Працэс «беларусізацыі» вярхоў эксплуататарскіх класаў суправаджаўся ўзмацненнем нацыяналістычных тэндэнцый.

Напярэдадні Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі бел. этнас уяўляў сабою нацыю буржуазнага тыпу. Да гэтага часу сфарміраваліся асноўныя віды нацыянальнай мастацкай культуры — літаратура, тэатр, музыка, выяўленчае мастацтва, функцыяніравалі перыядычны друк. Пэўнай ступені дасягнула развіццё кадыфікацыі бел. літаратурнай мовы. Нацыянальная самасвядомасць была пашырана сярод прадстаўнікоў практычна ўсіх класаў і сацыяльных слаёў грамадства — пралетарыяту, сялянства, інтэлігенцыі, буржуазіі, чыноўніцтва, буйных землеўласнікаў, што сведчыла пра фарміраванне бел. нацыі як буржуазнага этнасацыяльнага арганізма. Але ў дарэвалюцыйную эпоху гэты працэс меў рэгіянальны характар, многія раёны Беларусі былі слаба закрануты кансалідацыйнымі тэндэнцыямі. Далейшае развіццё нацыянальнай кансалідацыі бел. этнасу як асобнай тэрытарыяльнай супольнасці адбывалася ў гады Савецкай улады.

**Развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі.** Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі адкрыла новы этап у гісторыі Б. і стварыла перадумовы для фарміравання бел. сацыялістычнай нацыі. 1.1.1919 Часовы рабоча-сялянскі сав. урад Беларусі абнародаваў Маніфест, які абвясціў утварэнне Бел. Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Бел. народ упершыню ў сваёй гісторыі атрымаў дзярж. самастойнасць, што спрыяла паскоранаму развіццю эканомікі, нацыянальнай культуры, умацаванню этнічнай самасвядомасці Б. У ходзе нацыянальна-дзярж. будаўніцтва фарміравалася тэрытарыяльная супольнасць бел. сацыялістычнай нацыі. У складзе царскай Расіі этнічная тэрыторыя Б. была раздзелена паміж Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Віленскай губ., прычым іх адміністрацыйныя граніцы не супадалі з этнічнымі межамі рассялення Б., што ў пэўнай меры стрымлівала натуральны ход працэсаў этнічнай кансалідацыі. Першы з'езд Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі прыняў пастанову пра абвяшчэнне БССР на тэрыторыі Мінскай, Смаленскай, Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай губ., што ў асноўным адпа-

**Беларусы.** Газеты «Наша доля» і «Наша ніва».

вядала этнічнай тэрыторыі бел. народа. Аднак у сувязі з цяжкім знешнім і ўнутраным становішчам краіны, з-за небяспекі нападу з боку буржуазнай Польшчы, Першы Усебел. з'езд Саветаў (2—3.2.1919) уключыў у тэрыторыю рэспублікі толькі Мінскую і Гродзенскую губерні. На гэтым жа з'ездзе была прынята дэкларацыя, паводле якой Беларусь аб'ядноўвалася з Літвой у адзіную Літоўска-Бел. рэспубліку для ўзмацнення магчымасцей абодвух народаў у барацьбе з надыходзячай ваеннай небяспекай. Пасля выгнання польскіх акупантаў Беларусь зноў абвясціла сябе незалежнай сацыялістычнай рэспублікай (31.7.1920). Паводле Рыжскага мірнага дагавору (18.3.1921) зах. раёны Беларусі з насельніцтвам звыш 4 млн. чал. асталіся пад уладай буржуазнай Польшчы. Прымусовае адарванне Зах. Беларусі стрымлівала этнічную кансалідацыю бел. народа. Развіццё БССР і Зах. Беларусі ішло дыяметральна процілеглымі шляхамі.

У БССР разгарнулася сацыялістычнае будаўніцтва, у ходзе якога ішло пераўтварэнне бел. буржуазнай нацыі ў нацыю сацыялістычную. Карэнным чынам змяняўся змест этнічных прыкмет — агульнасці эканам. жыцця, тэрыторыі, нацыянальных асаблівасцей у псіхалогіі, самасвядомасці, культуры, мове. Тэрыторыя, у рамках якой першапачаткова адбывалася станаўленне бел. сацыялістычнай нацыі, складалася з паветаў былой Мінскай губ. плошчай 52,3 тыс. км$^2$ з насельніцтвам 1,5 млн. чалавек. У 1924 да Беларусі былі далучаны некаторыя паветы Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губ., дзе сярод насельніцтва пераважалі Б. У выніку другога ўзбуйнення ў склад Беларусі ўключаны Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Тэрыторыя рэспублікі склала 125 854 км$^2$, а колькасць насельніцтва каля 5 млн. чалавек.

Фарміраванне эканам. асновы бел. сацыялістычнай нацыі адбывалася ў цяжкіх умовах. Імперыялістычная, грамадзянская войны, акупацыя спачатку нямецкімі войскамі, затым войскамі буржуазнай Польшчы абяскровілі нар. гаспадарку Беларусі. Валавы збор збожжавых культур у параўнанні з даваенным часам скараціўся больш як у два разы, а валавая прадукцыя буйной прамысловасці ў параўнанні з 1913 склала ўсяго 21 %. Паменшылася колькасць прамысловых прадпрыемстваў, значныя страты былі нанесены лясной гаспадарцы, чыгуначнаму транспарту.

Працэс пераўтварэння буржуазнай нацыі ў сацыялістычную ў аднаўленчы перыяд быў замаруджаны шматукладнасцю эканомікі, слабым эканам. развіццём, аграрнай перанаселенасцю, наяўнасцю капіталістычных элементаў, якія без барацьбы не здавалі сваіх пазіцый, раз'яднанасцю нацыянальнай тэрыторыі, значная частка якой знахо-дзілася пад уладай буржуазнай Польшчы.

Станаўленне эканам. асновы сацыялістычнай нацыі было непарыўна звязана з пабудовай сацыялізму, састаўнымі часткамі якой сталі індустрыялізацыя краіны, кааперацыя сельскай гаспадаркі, культурная рэвалюцыя. Адной з галоўных мэт індустрыялізацыі была ліквідацыя эканам. і сацыяльнай няроўнасці нацый і народнасцей нашай краіны, у т. л. бел. нацыі. Таму для Беларусі прадугледжваліся больш хуткія тэмпы развіцця. У першую чаргу паўстала задача развіцця цяжкай прамысловасці, электраэнергетыкі. Ужо за гады перадваенных пяцігодак Беларусь з адсталай аграрнай краіны ператварылася ў індустрыяльна-аграрную дзяржаву. У валавой прадукцыі нар. гаспадаркі прамысловасць складала 80 %. Рашаючае значэнне для развіцця новых этнасацыяльных працэсаў у БССР мела таксама калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Пераўтварэнне сельскай гаспадаркі на сацыялістычнай аснове ўключала цэлую сістэму мер па паліт., эканам., культурнай перабудове дробнай сялянскай гаспадаркі, усяго ўкладу жыцця, быту, псіхалогіі сялян. Працэс пераходу ад капіталістычнай да сацыялістычнай нацыі быў немагчымы без карэннай ломкі сацыяльнай структуры грамадства. Істотны ўплыў


ВЕСТКІ

Часоваго Работніча-Селянскаго Радаваго (Советского) Ураду Беларусі.

МАНІХВЭСТ

Часоваго Работніча-Селянскаго Савецкаго Праўцельства Беларусі

Таварышы і браты рабочыя, бедныя селяне і чырвоноармейцы Беларусі!

**Беларусы.** Газета «Весткі» Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі, у якой надрукаваны Маніфест аб абвяшчэнні БССР. 1919.

на асноўныя рысы, асаблівасці і інтэнсіўнасць гэтага працэсу аказалі агульны ўзровень сацыяльна-эканам. развіцця рэспублікі, краіны ў цэлым, эканам. і паліт. пераўтварэнні, што ішлі ў Сав. дзяржаве. Эксплуататарскія класы былі ліквідаваны. Вядучае месца ў сацыялістычным грамадстве заняў рабочы клас. Індустрыяльнае развіццё прывяло да павелічэння рабочых у рэспубліцы (за гады даваенных пяцігодак у 6 разоў). Крыніцай павелічэння іх колькасці было сялянства, у пераважнай большасці Б. Фарміраванне нацыянальных кадраў рабочага класа спрыяла паскарэнню кансалідацыі бел. сацыялістычнай нацыі. У выніку ажыццяўлення сацыялістычных пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы змянілася сялянства: з класа дробных уласнікаў і вытворцаў яно ператварылася ў клас калгаснага сялянства. У рэспубліцы інтэнсіўна фарміраваліся нацыянальныя кадры інтэлігенцыі. У пач. 40-х г. у складзе студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў БССР 76,6 % складалі Б. Большасць іх былі выхадцамі з рабочых і сялян.

Станаўленне сацыялістычнага ладу закранула ўсе бакі жыцця грамадства. Пашыралася сацыяльная і тэрытарыяльная мабільнасць насельніцтва. Шырокае распаўсюджанне ў гэты час мелі адыходніцтва, міграцыі за межы рэспублікі і ў гарады. Прамысловае развіццё Сав. Беларусі спрыяла росту гарадскога насельніцтва. Так, паміж перапісамі 1926 і 1939 колькасць гараджан узрасла з 848 тыс. да 1375 тыс чал. (з 17 да 25 % усяго насельніцтва). Інтэнсіўная знешняя і ўнутраная міграцыя, працэсы урбанізацыі, шматнацыянальны склад насельніцтва БССР, устанаўленне брацкіх эканам. і культурных сувязей паміж народамі СССР спрыялі ўмацаванню міжэтнічных зносін у розных сферах жыцця людзей, развіццю працэсаў міжэтнічнай інтэграцыі.

Глыбокія змены адбываліся ў нацыянальнай культуры, свядомасці і псіхалогіі бел. народа. Устанаўленне дзяржаўнасці паскорыла працэсы этнічнага развіцця. Актыўныя пераўтварэнні ў сацыяльна-класавай структуры насельніцтва, фарміраванне нацыянальных атрадаў рабочага класа, інтэлігенцыі, стварэнне нацыянальнага адміністрацыйна-ўпраўленчага апарату — усё гэта спрыяла ўмацаванню этнічнага адзінства. Важнае месца ў нацыянальнай кансалідацыі належала бел. літаратуры, тэатру, кіно, музыцы, жывапісу. Менавіта на гады Сав. улады прыпадае росквіт таленту буйнейшых нацыянальных пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа. Пад уплывам вялікіх сацыяльных працэсаў і здзяйсненняў заявілі пра сябе ў літаратуры М. Чарот, У. Дубоўка, Ц. Гартны, К. Крапіва, П. Броўка і інш., у творчасці якіх цэнтр. месца займаюць праблемы радзімы, народа, яго побыту і гісторыі. Новая сав. літаратура стваралася на бел. мове, што спрыяла пашырэнню этнічнай самасвядомасці. У 1920 у Мінску быў створаны Першы Бел. дзярж. тэатр, у гэтым жа годзе пачала свой творчы шлях трупа пад кіраўніцтвам У. Галубка, з 1926 у Віцебску дзейнічаў Другі Бел. дзярж. тэатр. Прафесійныя бел. тэатры ставілі п'есы на роднай мове, мелі свой нацыянальны рэпертуар, шырока выкарыстоўвалі традыцыі вуснапаэтычнай і музычнай нар. творчасці. Акрамя прафесійных тэатраў, станоўчую ролю ва ўмацаванні самасвядомасці Б. адыгралі драматычныя гурткі, клубы бел. мастацкай інтэлігенцыі, курсы беларусазнаўства. Яны неслі ў масы нацыянальную культуру, далучалі бел. насельніцтва да мастацтва рускіх, украінцаў і інш. савецкіх народаў, вялі шырокую асветніцка-прапагандысцкую работу. У 1924 было створана Кіраўніцтва па справах кіно

(Белдзяржкіно), а ў 1928 — кінастудыя мастацкіх фільмаў «Савецкая Беларусь».

Самасвядомасць Б. расла з павышэннем пісьменнасці ў працэсе стварэння школы з навучаннем на роднай мове, у ходзе пашырэння і станаўлення вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў (калі ў 1926 пісьменнае насельніцтва ва ўзросце 9—49 гадоў складала 40,7 %, то ў 1939 — 80,9 %). У 1921 адкрыўся Бел. дзярж. ун-т, у 1922 у Мінску заснаваны Бел. ін-т сельскай і лясной гаспадаркі, затым пачаў працаваць Віцебскі ветэрынарны ін-т. У 1925 у выніку аб'яднання Горацкага с.-г. ін-та і Бел. ін-та сельскай і лясной гаспадаркі створана Бел. с.-г. акадэмія. У 1922 быў створаны *Інстытут беларускай культуры,* пры ім дзейнічала *Цэнтральнае бюро краязнаўства* і кафедра этнаграфіі з фальклорнай камісіяй, выдаваўся часопіс «Наш край» (з 1925). У 1929 Ін-т бел. культуры пераўтвораны ў Акадэмію навук Беларускай ССР. Умацаванню этнічнага адзінства садзейнічалі сістэматычныя і мэтанакіраваныя даследаванні культуры і побыту Б. Публікацыі іх вынікаў у друку знаёмілі шырокія колы насельніцтва са спадчынай, з этнічнай гісторыяй народа. Усё гэта спрыяла нацыянальнаму самавызначэнню насельніцтва, развіццю нацыянальных пачуццяў, згасанню лакальнаэтнагр. самасвядомасці. У шырокіх нар. масах стала прэваліраваць свядомасць прыналежнасці да бел. этнасу.

Матэрыяльная і духоўная культура Б. у перыяд складвання сацыялістычнай нацыі грунтавалася як на традыцыйнай культуры, якая была ўнаследавана ад капіталістычнай нацыі, так і на культурных інавацыях, што ўзніклі ў працэсе пабудовы сацыялізму. У духоўную скарбніцу сацыялістычнага этнасу ўвайшлі звычаі, абрады, нар. творчасць. У той жа час пад уплывам перабудовы сацыяльна-класавай структуры з'яўляюцца новыя элементы, тэндэнцыі. У фальклорных творах знайшлі ўвасабленне падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі, Грамадзянскай вайны, сацыялістычнага будаўніцтва. У 20-я гады ўзніклі новыя абрады — акцябрыны і чырвонае вяселле, якія пацяснілі царкоўныя абрады хрышчэння і вянчання. Са зменай вытворчых адносін змяняецца і матэрыяльная культура бел. сялян. Традыцыйныя прылады працы паступова выцясняюцца складанымі машынамі: трактарамі, малатарнямі, камбайнамі, касілкамі і інш. Драўляныя бароны замяняюцца жалезнымі, саха — плугам. Значныя змены адбыліся ў традыцыйным сялянскім жыллі. З калектывізацыяй сельскай гаспадаркі адпала неабходнасць у многіх гаспадарчых пабудовах. Гэта прывяло да трансфармацыі сядзібных планіровак: двор становіцца адкрытым, прасторным. Сацыяльна-эканам. змены ў вёсцы адбіліся і на пасяленнях. Новы спосаб вытворчасці патрабаваў стварэння буйных калгасных і саўгасных пасёлкаў (да Вял. Айч. вайны заснавана 927 такіх пасёлкаў). У першыя гады Сав. улады трывала захоўвалася бел. нар. даматканае адзенне. Аднак паступова знікае частка элементаў традыцыйнага комплексу, якая не адпавядала новым умовам жыцця: гарсэты, даматканыя андаракі і спадніцы. Насельніцтва пачало пераходзіць на адзенне з фабрычных тканін.

Ужо ў першыя гады Сав. улады ўдасканалілася граматыка бел. мовы, пашырыўся яе слоўнікавы склад. На бел. мове сталі выдавацца падручнікі, яе вывучалі ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Яна стала мовай мастацкай, навуковай літаратуры, мовай справаводства, прэсы, кіно, радыё. У выніку інтэнсіўных унутрыкансалідацыйных працэсаў адбывалася аслабленне лакальных этнакультурных асаблівасцей этнагр. груп (паляшукоў і інш.), ствараліся агульныя культуры бел. народа. У пагранічных зонах ішлі працэсы этнічнай дыферэнцыяцыі насельніцтва, якая спалучалася з міжэтнічнай інтэграцыяй.

Развіццё этнічных працэсаў у Зах. Б. Гэтай мэце служыла каталіцкая царква, буржуазны друк, школа. Каталіцкая царква праводзіла ідэю веравызначальнай агульнасці католікаў, а Б. — католікаў аб'яўляла палякамі. Буржуазны польскі друк імкнуўся ачарніць бел. нацыянальную культуру, выкараніць бел. мову. Нягледзячы на пратэст прагрэсіўнай грамадскасці, да 1938/39 навучальнага года былі ліквідаваны ўсе бел. школы і гімназіі. У Зах. Беларусі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, ні аднаго тэатра. Усё гэта перашкаджала росту бел. інтэлігенцыі. Бяспраўе нар. мас і жорсткі нацыянальны прыгнёт выклікалі ўзмацненне нацыянальна-вызваленчага руху, які з 1923 узначаліла Камуністычная партыя Зах. Беларусі. Пад яе кіраўніцтвам дзейнічалі Камуністычны саюз моладзі Зах. Беларусі, Бел. сялянска-рабочая грамада (больш за 2 тыс. яе гурткоў аб'ядноўвалі каля 120 тыс. чал.), «Змаганне», а таксама культурна-асветная арганізацыя Т-ва бел. школы, якія выступілі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне Б., за ўз'яднанне з БССР.



**Беларусы.** Супрацоўнікі Інстытута беларускай культуры: злева направа — А. Гурло, Б. І. Эпімах-Шыпіла, Я. Колас, І. І. Замоцін, С. М. Некрашэвіч; стаяць: М. Я. Байкоў, І. П. Плашчынскі (Я. Пушча), В. Ф. Мачульскі. Мінск. 1927.

Беларусі праходзіла ў інш. умовах. У складзе буржуазнай Польшчы яна была адсталай аграрнай акраінай. У 1931 85 % яе насельніцтва пражывала ў сельскай мясцовасці, 79 % займалася сельскай гаспадаркай. Эканам. адсталасць, непісьменнасць значнай часткі насельніцтва Зах. Беларусі спрыялі кансервацыі архаічных элементаў культуры і побыту, звароту да больш адсталых форм гаспадарання. На сялянскіх палосках прымяняліся ўстарэлыя прылады працы — драўляныя саха і барана, серп. Селянін абыходзіўся мінімумам пакупных рэчаў. Адзенне ў асноўным было даматканае. Польскі буржуазны ўрад праводзіў каланіяльную палітыку, накіраваную на акаталічванне, апалячванне

Важным паліт. актам, які зрабіў пазітыўны ўплыў на развіццё бел. сацыялістычнай нацыі, было ўз'яднанне ўсяго бел. народа ў адзінай рэспубліцы (1939). Тэрыторыя і насельніцтва Сав. Беларусі павялічыліся амаль у два разы. Завяршылася тэрытарыяльная кансалідацыя нацыі. Насельніцтва Зах. Беларусі ўцягвалася ў працэсы ўнутранай кансалідацыі этнасу, а таксама ў міжэтнічную інтэграцыю ў маштабах Сав. Саюза. Гэтыя працэсы былі перапынены Вял. Айч. вайной. За гады вайны гітлераўцы разбурылі і зруйнавалі з зямлёй 209 бел. гарадоў і раённых цэнтраў, 9200 сёл і вёсак, правялі больш за 140 карных аперацый, у час якіх спалілі 628 вёсак разам з жыхарамі (у т. л. в. Хатынь, памяць аб якой увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь»). У рэспубліцы загінуў кожны чацвёрты. Страты, якія панесла нар. гаспадарка

Беларусі, склалі 75 млрд. рублёў. Вайна выклікала вялікія міграцыі насельніцтва: у першыя ваенныя гады з тэрыторыі рэспублікі было эвакуіравана 1,5 млн. чал., якія доўгі час жылі ў іншаэтнічным асяроддзі. Звыш мільёна Б. змагаліся на франтах Вял. Айч. вайны, больш як 440 тыс. партызан і падпольшчыкаў вялі барацьбу на акупіраванай ворагам тэрыторыі. У партызанскай вайне на тэрыторыі нашай рэспублікі змагаліся прадстаўнікі больш як 70 нацыянальнасцей Сав. Саюза: рускія, украінцы, літоўцы, латышы, грузіны, казахі, азербайджанцы, армяне, малдаване, узбекі, яўрэі і інш. Вайна з'явілася выпрабаваннем і разам з тым праверкай на ўстойлівасць як для бел., так і для інш. нацый і народнасцей Сав. Саюза. Бел. народ разам з брацкімі народамі нашай краіны адстаяў незалежнасць Сацыялістычнай Айчыны. Подзвіг бел. народа ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў высока ацэнены Камуністычнай партыяй і Сав. урадам: звыш 300 тыс. воінаў і больш як 140 тысяч партызан і падпольшчыкаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, 409 воінаў-беларусаў і ўраджэнцаў нашай рэспублікі ўдастоены высокага звання Героя Сав. Саюза. Унутрыэтнічная кансалідацыя бел. этнасу, перапыненая вайной, набірала сілу. Узмацніліся этнічныя сувязі паміж зах. і ўсх. часткамі Беларусі. У зах. абласцях працягваліся сацыялістычныя пераўтварэнні — кааператаванне сельскай гаспадаркі, рост культуры насельніцтва. Пасля вайны спатрэбілася цэлая пяцігодка для таго, каб Беларусь з дапамогай брацкіх рэспублік аднавіла свой эканам. патэнцыял (да канца 1950 аб'ём прамысловай прадукцыі ў рэспубліцы пераўзышоў даваенны ўзровень). На месцы знішчаных вёсак выраслі новыя. Толькі праз 26 год (да сярэдзіны 1971) Беларусь дасягнула даваеннай колькасці насельніцтва.

Сучасная этнічная сітуацыя ў БССР характарызуецца інтэнсіўным дзеяннем аб'яднальных этнічных працэсаў, сярод якіх усё большае значэнне набываюць працэсы міжэтнічнай інтэграцыі. У выніку чаго ў побыце, культуры, ладзе жыцця Б. з'яўляюцца агульныя рысы, характэрныя і для інш. народаў Сав. Саюза. Важнае месца належыць і ўнутрыэтнічнай кансалідацыі. У галіне эканам. адносін працэс збліжэння нацый ідзе найбольш хутка. Яркім праяўленнем працэсу інтэрнацыяналізацыі сацыялістычнай гаспадаркі ў маштабах СССР з'яўляецца стварэнне адзінага народна-гаспадарчага комплексу, які ахоплівае ўсе звёны грамадскай вытворчасці, размеркавання і абмену на тэрыторыі СССР. Брацкае супрацоўніцтва бел. сацыялістычнай нацыі з інш. сацыялістычнымі нацыямі ўключае пастаўкі прадукцыі, абмен перадавым вопытам, дапамогу кваліфікаванымі спецыялістамі. У саюзе братніх народаў Беларусь дасягнула значных вышынь эканам. і духоўнага развіцця. Толькі за перыяд сямігодкі (1958—65) тэмпы эканам. росту рэспублікі былі аднолькавыя з агульнасаюзнымі, у наступныя пяцігодкі Сав. Беларусь развівалася апераджальнымі тэмпамі. Індустрыяльнае аблічча Беларусі вызначаюць працаёмкія галіны нар. гаспадаркі, якія адлюстроўваюць сучасны навукова-тэхнічны прагрэс,— радыётэхнічная, электронная, станкабудаўнічая, інструментальная, аўтамабільная, нафтаперапрацоўчая, хімічная.

У пасляваенны час сацыяльная структура бел. нацыі ўзнялася на новы якасны ўзровень, дасягнула больш высокай ступені сталасці. Пераважаючым па колькасці як у горадзе, так і на сяле становіцца рабочы клас, павышаецца ўдзельная вага служачых, паніжаецца працэнт калгаснага сялянства (табл. 1).



**Беларусы.** Скульптура «Няскораны чалавек» у Хатыні.

Высокія тэмпы развіцця прамысловасці БССР, вялікія змены ў яе структуры садзейнічалі росту колькасці рабочых. Разам з колькасным ростам рабочага класа адбываюцца прагрэсіўныя якасныя змены ў яго складзе (расце яго адукацыйны і кваліфікацыйны ўзровень). Павышэнне сацыяльнай аднароднасці рабочых ідзе гал. чынам за кошт размывання слоя працаўнікоў нізкай кваліфікацыі, ліквідацыі асабліва цяжкай фізічнай працы. Не застаецца нязменным і калгаснае сялянства: фарміруецца новы тып калгасніка, праца якога звязана з сучаснай тэхнікай і тэхналогіяй с.-г. вытворчасці. Высокія тэмпы росту інтэлігенцыі — адна з характэрных рыс развіцця сацыяльнай структуры сав. грамадства. Кожны чацвёрты работнік у рэспубліцы звязаны ў асноўным з разумовай працай. У складзе мільённага атрада інтэлігенцыі найбольш інтэнсіўна расце тая яе частка, якая звязана з навукова-тэхнічным прагрэсам (вытворчая, навуковая, навукова-тэхнічная). Расце колькасць інтэлігенцыі: у Беларусі ў навукова-даследчых ін-тах, канструктарскіх, праектных і тэхналагічных арганізацыях працуюць 39 тыс. навуковых супрацоўнікаў, з іх 896 дактароў, 2158 кандыдатаў навук. Вядучы навуковы цэнтр рэспублікі — Акадэмія навук БССР, у складзе якой налічваецца 32 ін-ты, у т. л. *Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.*

Хуткае развіццё прамысловасці адбілася на тэмпах урбанізацыі рэспублікі. На карце Беларусі толькі з 1959 па 1979 з'явілася 27 новых гарадоў. Сярод іх такія буйныя прамысловыя цэнтры, як Светлагорск, Салігорск, Наваполацк, Жодзіна, Новалукомль. Цяпер у гарадах рэспублікі пражывае 63 % яе насельніцтва (на 1.1.1986). Рост колькасці гарадскога насельніцтва і распаўсюджанне гарадскога ладу жыцця ўзмацнілі ў першую чаргу ўнутрырэспубліканскія міграцыі, асноўны напрамак якіх — буйныя гарады. Масавы прыток сельскіх жыхароў у гарады накладвае свой адбітак на этнічныя працэсы ў рэспубліцы, на этнічнае аблічча гараджан. Выхадцы з сяла складаюць каля 50 % гарадскога насельніцтва. Іх адроджваюць больш моцныя арыентацыі на этнічную спецыфіку культуры: нацыянальныя стравы, музыку, песні, абрады. Уключаючыся ў лад жыцця гарадскога насельніцтва, былыя вясковыя жыхары далучаюцца да гарадской культуры, уцягваюцца ў інтэнсіўныя міжнацыянальныя сувязі, што вядзе да ўмацавання інтэрнацыяналісцкіх поглядаў, садзейнічае шырэйшаму выкарыстанню мовы міжнацыянальных зносін, у якасці якой выступае руская мова.

Табліца 1

**Класавы склад насельніцтва БССР (у %)**

| | Гады | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1939 | 1959 | 1970 | 1979 |
| Усё насельніцтва | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| Рабочыя | 21,9 | 35,7 | 52,3 | 55,8 |
| Калгаснікі | 57,2 | 48,5 | 28,2 | 21,3 |
| Служачыя | 14,5 | 15,1 | 19,3 | 22,8 |
| Іншыя | 6,4 | 0,7 | 0,2 | 0,1 |

Беларусь адносіцца да рэспублік з найбольшай кансалідаванасцю насельніцтва. У 1979 у межах БССР пражывала 80 % усіх Б. краіны. Значныя іх групы расселены ў інш. рэспубліках: у РСФСР (Карэльская АССР, Калінінградская, Маскоўская вобл.) 11,1 %, Украінскай ССР 4,3 %, Казахскай ССР 1,9 %, Латвійскай ССР

1,2 %, Літоўскай ССР 0,6 %, Эстонскай ССР 0,2 % агульнага ліку Б. У той час у Беларусі пражываюць каля 100 нацыянальнасцей краіны. Сярод іх 1134 тыс. рускіх, 403 тыс. палякаў, 231 тыс. украінцаў, 135 тыс. яўрэяў, 61 тыс. інш. нацыянальнасцей (табл. 2).

Змены ў нацыянальным складзе насельніцтва рэспублікі адбываюцца галоўным чынам пад уплывам натуральнага прыросту, міграцыйных і этнічных працэсаў. У апошнія дзесяцігоддзі ў БССР выразна праяўляюцца дзве асноўныя тэндэнцыі этнічнага ўзаемадзеяння: збліжэння розных этнічных груп з карэннай для рэспублікі нацыянальнасцю — Б. і збліжэнне розных этнічных груп з рускімі. Апошняя тэндэнцыя яскрава прасочваецца па характары і напрамку этналінгвістычных працэсаў. У БССР доля Б., якія лічаць роднай рускую мову, павялічылася з 1970 па 1979 на 6 %, украінцаў — 6 %, палякаў — 8 %, яўрэяў — на 6 %. Існуюць невялікія адрозненні ў этнічным складзе насельніцтва абласцей, абумоўленыя гіст., геагр. і інш. прычынамі. Калі ў Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай і Брэсцкай абл. доля насельніцтва карэннай нацыянальнасці перавышае 80 %, то ў Гродзенскай яна зніжаецца да 62 % (тут павышана ўдзельная вага палякаў). Найбольшая колькасць рускага насельніцтва пражывае ў суседніх з РСФСР Віцебскай і Гомельскай абласцях. Самая вялікая колькасць украінскай нацыянальнай групы ў Брэсцкай і Гомельскай абл., сумежных з Украінай.

Табліца 2

**Нацыянальны склад насельніцтва Беларусі (у %)**

| Нацыянальнасць | 1926 (БССР у межах да 17.09.1939) | 1959 | 1970 | 1979 |
|---|---|---|---|---|
| Беларусы | 80,6 | 81,1 | 81,0 | 79,4 |
| Рускія | 7,7 | 8,2 | 10,4 | 11,9 |
| Палякі | 2,0 | 6,7 | 4,3 | 4,2 |
| Украінцы | 0,6 | 1,7 | 2,1 | 2,4 |
| Іншыя нацыянальнасці | 9,1 | 2,3 | 2,2 | 2,1 |

За пасляваенны час адбыліся істотныя змены ў размеркаванні нацыянальных груп насельніцтва ў горадзе і на сяле. Урбанізацыя рэспублікі і выкліканыя ёю міграцыі з вёсак у гарады прывялі да росту колькасці Б. сярод гараджан. У той жа час у нацыянальным складзе гарадскога насельніцтва павялічваецца колькасць прадстаўнікоў інш. нацый. Пад уплывам міграцый расце і поліэтнічнасць сельскага насельніцтва: кожны дзесяты жыхар бел. вёскі — прадстаўнік некарэннай нацыянальнасці.

Усебаковае эканам. і культурнае развіццё Беларусі, пашырэнне міжрэспубліканскіх сувязей, якія суправаджаюцца міграцыямі насельніцтва, вядзе да пастаяннага росту міжнацыянальных шлюбаў. У рэспубліцы міжнацыянальныя шлюбы складалі: па перапісах 1959 — 11 %, 1970 — 16,3, 1979 — 20,1 %. У гарадах кожны трэці шлюб міжнацыянальны. Рост такіх шлюбаў прыкметны і на сяле.

На этнічнае развіццё Б. станоўчы ўплыў аказваюць інтэграцыйныя працэсы паміж горадам і вёскай, якія прыводзяць не толькі да інтэграцыі вытворча-гаспадарчых функцый, сацыяльнай інфраструктуры горада і вёскі, але і адбіваюцца на культуры і побыце насельніцтва. Сучасная сельская гаспадарка рэспублікі — гэта механізаваны індустрыяльна-аграрны комплекс. Рэспубліка спецыялізуецца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, свінагадоўлі, вытворчасці льновалакна, бульбы, збожжа. На долю БССР прыпадае звыш 5 % валавой с.-г. прадукцыі краіны. Інтэнсіфікацыя с.-г. вытворчасці, павелічэнне тэхнічнай узброенасці калгасаў і саўгасаў змянілі вытворчы побыт селяніна. Паступова знікае традыцыйна ўласцівы сялянскай працы універсалізм. Цяпер грамадскай вытворчасці вёскі патрабуюцца больш як 150 прафесій і спецыяльнасцей (механізатары, слесары, сантэхнікі, электрыкі, лётчыкі, газазваршчыкі, майстры машыннага даення і інш.). Пад уплывам пераўтварэння с.-г. працы ў разнавіднасць індустрыяльнай, збліжэння кааператыўна-калгаснай уласнасці з дзяржаўнай адбываюцца глыбокія і рознабаковыя змены ў культурным і духоўным абліччы, у паліт. сталасці сялянства. Адышла ў мінулае былая замкнёнасць сялянскага жыцця. На сяле з кожным днём усё мацней праяўляюцца агульнасав. рысы жыцця. Аднак і сёння вёска застаецца найбольш трывалым носьбітам традыцыйнай культуры, яе этнаграфічна-фальклорных форм. Разам з тым паступова функцыя захавальніка традыцыйнай культуры ўсё больш пераходзіць да горада. Апошні запазычвае з вёскі традыцыйныя культурныя каштоўнасці, ператтварае, абагачае і развівае іх. Трансфармацыя традыцыйнага побыту ідзе па шляху культурнагістарычнай пераемнасці, беражлівых адносін да нар. спадчыны. Народныя традыцыі арганічна ўваходзяць у склад сучаснай культуры, цесна пераплятаюцца з інавацыямі.

На сучасным этапе развіцця пад уплывам навукова-тэхнічнага прагрэсу адбыліся характэрныя змены ў матэрыяльнай культуры народа. Па ўсёй краіне распаўсюдзіўся т. зв. гарадскі еўрапейскі касцюм. Бел. нар. адзенне знайшло сваё ўвасабленне ў сцэнічным касцюме. У сучасным адзенні беларусаў выкарыстоўваюцца лепшыя традыцыі нар. творчасці. Гэта ў асноўным розныя традыцыйныя матэрыялы, варыяцыі ў камплектаванні складаных частак адзення, нар. спосабаў і прыёмаў арнаментыкі, упрыгожанняў. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца льняныя сукенкі, гарнітуры, аздобленыя вышыўкай, карункамі, аплікацыяй па матывах нар. арнаменту. У хатнім побыце яшчэ даволі шырока ўтрымліваецца вязанне шкарпэтак, рукавіц, світароў, галаўных убораў, шалікаў і інш. цёплых рэчаў, упрыгожаных традыцыйнымі ўзорамі. У асобных населеных пунктах захоўваюцца нар. промыслы і рамёствы. У Гарадной, Пружанах, Ружанах і Ясенцы, што на Брэстчыне, Поразаве на Гродзеншчыне, Новым Вільянове і Дрыбіне на Магілёўшчыне захаваліся традыцыйныя формы ганчарства, у вёсках Прусы Старадарожскага, Моталь Іванаўскага, Неглюбка Веткаўскага, Краснае Лідскага р-наў і некаторых інш. шырока распаўсюджана ткацтва. У наш час больш шырока нар. традыцыі выкарыстоўваюцца на фабрыках мастацкіх вырабаў (разьба па дрэве, пляценне з саломкі, выраб узорных тканін, керамікі і інш.). Для гарадскіх паселішчаў характэрна уніфікацыя жылля. Асноўны жыллёвы фонд у гарадах складаюць шматпавярховыя дамы.

У бел. вёсцы сёння яшчэ пераважае традыцыйнае жыллё. 80 % жыллёвага фонду сельскіх населеных пунктаў прыпадае на індывідуальныя хаты калгаснікаў, рабочых саўгасаў і інш. сельскіх працаўнікоў. Сялянская хата, захоўваючы традыцыйныя асаблівасці канструкцыі, аздабленне жылля, арыентацыю да вуліцы і інш., інтэнсіўна ўспрымае ўсё новае. З'яўляюцца новыя будаўнічыя матэрыялы. Побач з драўлянай хатай у вёсцы будуюцца цагляныя, шклабетонныя дамы, на змену саламянаму даху прыйшлі чарапіца, гонта, бляха, шыфер. Удасканальваюцца будаўнічыя канструкцыі. Хаты сталі больш прасторныя, светлыя, інтэр'ер іх усё больш нагадвае гарадскія кватэры.

Параўнальнай устойлівасцю вылучаецца нацыянальная бел. кухня, Б. па-ранейшаму аддаюць перавагу жытняму хлебу, спажываюць больш бульбы, чым суседнія народы. Аднак і ў харчаванні насельніцтва рэспублікі адбываюцца значныя колькасныя і якасныя змены, характэрныя і для інш. народаў Сав. Саюза. Больш спажываецца высокакаларыйных мясных і малочных прадуктаў, яек, цукру, гародніны і параўнаўча менш бульбы, хлебных прадуктаў. Шмат якія ранейшыя святочныя стравы цяпер сталі штодзённымі. Усё большае месца займае сістэма грамадскага харчавання.

У пасляваенны час на якасна новую ступень узнялася духоўная культура Б. Павялічылася адукаванасць насельніцтва, чаму ў значнай ступені спрыяла практычнае ажыццяўленне ўсеагульнай сярэдняй адукацыі ў рэспубліцы. Штогод сярэднюю школу заканчваюць каля 100 тыс. юнакоў і дзяўчат. У 33 вышэйшых навучальных установах Беларусі ў 1987/88 годзе вучылася 179,4 тыс.

студэнтаў, у 138 сярэдніх спецыяльных установах у гэты ж перыяд вучылася 154 тыс. чалавек. Шырокі размах атрымала культурна-асветная работа. Да паслуг насельніцтва 98 музеяў, 7546 кінаўстановак, 6289 палацаў і дамоў культуры, 6521 масавая бібліятэка, кніжны фонд якіх складае 100 млн. экземпляраў. У рэспубліцы з 215 газет 130 выдаюцца на бел. мове (іх разавы тыраж 1,7 млн. экземпляраў). Тыраж выдадзеных на бел. мове кніг і брашур склаў 6,2 млн. экземпляраў (звесткі даюцца на 1987). Заслужанай папулярнасцю карыстаюцца 17 прафесійных тэатраў, сярод якіх Бел. акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, Бел. акадэмічны тэатр імя Я. Коласа, Дзярж. акадэмічны тэатр оперы і балета БССР, Дзярж. рускі драматычны тэатр БССР, Бел. рэспубліканскі тэатр юнага гледача, Дзярж. тэатр лялек БССР. У іх рэпертуары творы бел. драматургаў, п'есы драматургаў інш. народаў СССР, замежных аўтараў. Значны ўклад у развіццё нацыянальнага бел. музычнага і харэаграфічнага мастацтва ўнеслі Дзярж. акадэмічная харавая капэла БССР, Дзярж. акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, Дзярж. ансамбль танца, Дзярж. народны аркестр БССР, Дзярж. акадэмічны нар. хор БССР, Дзярж. эстрадны ансамбль «Песняры», вакальна-інструментальны ансамбль «Верасы», фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі».

Бурнае развіццё атрымала бел. літаратура, вызначальнымі рысамі якой сталі прынцыпы народнасці і партыйнасці. За гады Сав. улады вырасла плеяда таленавітых празаікаў, драматургаў, паэтаў, творчасць якіх адлюстроўвае жыццё народа, карэнныя сацыяльна-эканам. і культурныя пераўтварэнні, якія адбыліся на бел. зямлі. На Беларусі і за яе межамі добра ведаюць творы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Лынькова, І. Мележа, А. Макаёнка, В. Быкава, Я. Брыля, К. Крапівы, П. Панчанкі, М. Танка, І. Шамякіна і інш. бел. пісьменнікаў. Абапіраючыся на лепшыя нар. традыцыі, бел. сав. літаратура ўзбагачаецца лепшымі дасягненнямі братніх літаратур. Асабліва вялікі ўплыў на яе аказвае руская літаратура. Узаемаўзбагачэнню нацыянальных культур, іх усё ўзрастаючай інтэрнацыяналізацыі спрыяюць літаратурны пераклад, узаемныя гастролі прафесійных і самадзейных музычных, драматычных калектываў, шырокі абмен творамі кіно, выяўленчага мастацтва.

Побач з прафесійнымі формамі, якія іграюць вядучую ролю як у працэсе этнічнай кансалідацыі Б., так і міжэтнічнай інтэграцыі, развіваецца і традыцыйна-бытавая культура. У сучасны перыяд у БССР працягваюцца фальклорныя традыцыі. У нар.-паэтычным рэпертуары шырока прадстаўлены жарты, анекдоты, гумарэскі, прыказкі, прымаўкі, загадкі. У сучасным бытаванні значнае месца займаюць прыпеўкі, лірычныя песні. З каляндарна-абрадавых песень — валачобныя, купальскія, жніўныя, восеньскія. Працэсы глыбокіх культурных узаемаўплываў закранулі і такую галіну духоўнай культуры Б., як святы і абрады. Шырока адзначаюцца сав. грамадзянскія і рэвалюцыйныя святы (гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дзень Чырвонай Арміі, Дзень памяці У. І. Леніна, Дзень Перамогі, Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая, Дзень міжнароднай салідарнасці жанчын 8 Сакавіка), працоўныя святы і абрады, прысвечаныя важным падзеям у жыцці чалавека. Сямейная абраднасць напаўняецца новым зместам, характэрным для ўсіх народаў Сав. Саюза, аднак трывала ўтрымліваюцца і традыцыі. Так, у вясельнай абраднасці захоўваюцца асноўныя этапы вяселля, вясельныя чыны (дружкі, шаферы, сваты і інш.), жартоўныя выкупы (выкуп варот, выкуп маладой, выкуп месца за сталом жаніха і г. д.). У радзіннай абраднасці шырока бытуюць адведкі нованароджанага; выбар кумоў (ганаровых бацькоў), жартоўны падзел бабінай кашы і інш. Побач з тэндэнцыяй на інтэрнацыяналізацыю абраднасці развіваецца цікавасць да нацыянальных момантаў традыцыйных свят. З выкарыстаннем некаторых традыцыйных элементаў праводзіцца ў Беларусі нар. свята купалле. На новай сацыялістычнай аснове адрадзіўся старадаўні бел. кірмаш.

Важнае месца ў духоўнай культуры Б. мае мастацкая самадзейнасць. З'яўляючыся прамежкавым звяном паміж бытавой і прафесійнай культурай, яна іграе станоўчую ролю ў працэсе этнічнай кансалідацыі. У 1987 у калектывах мастацкай самадзейнасці ўдзельнічала больш мільёна чалавек. Сярод самадзейных калектываў шмат фальклорна-этнаграфічных, якія развіваюць традыцыі вусна-паэтычнай і харэаграфічнай нар. творчасці.

Народная і прафесійная творчасць узаемаабагачаюцца. Кампазітары-прафесіяналы, пісьменнікі, харэографы звяртаюцца да фальклорных жанраў. Мастакі-прафесіяналы выкарыстоў-



**Беларусы.** Свята горада «Мінск-86».




Свята паэзіі ў Вязынцы (Маладзечанскі раён), прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы. 1982.

ваюць у сваёй працы творчыя метады нар. мастацтва. У афармленні грамадскіх будынкаў, у інтэр'ерах жылля знаходзяць прымяненне такія віды бел. нар. мастацтва, як кераміка, ткацтва, пляценне, разьба па дрэве.

У Беларускай ССР этналінгвістычная сітуацыя характарызуецца інтэнсіўным развіццём беларуска-рускага *двухмоўя.* Агульнасць паходжання, генетычная роднасць моў, якія на працягу ўсёй гісторыі развіваліся ў цесным узаемаўплыве,— усё гэта садзейнічае распаўсюджванню і засваенню побач з роднай і рускай мовы (62 % Б. свабодна валодаюць рускай мовай і 16 % лічаць яе роднай). Аднак у апошнія дзесяцігоддзі назіраецца звужэнне сферы ўжывання бел. мовы, асабліва ў асяроддзі гарадскога насельніцтва, дзе амаль кожны трэці — прадстаўнік некарэннай нацыянальнасці. Падаюць тыражы бел. кніг, скарачаецца колькасць школ з бел. мовай навучання. Усё гэта — вынік грубых парушэнняў прынцыпаў ленінскай нацыянальнай палітыкі ў 30—50-я г., а таксама валюнтарысцкі падыход да кіравання нац. працэсамі ў 60 — пач. 80-х г.




**Беларусы.** Свята дажынак у калгасе «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна.

Разам з тым у Беларусі, як і ў іншых савецкіх рэспублік, расце інтарэс да нар. песень, танцаў, музыкі, ідзе тэндэнцыя на ўмацаванне этнічнай самасвядомасці. Радыёперадачы па бел. мове, бел. тэлепраграма, кіно, тэатры знаёмяць шырокія масы насельніцтва з мінулым народа, з яго побытам і культурай. Умацаванню этнічнай самасвядомасці спрыяюць і гісторыка-этнагр. даследаванні.

Беларуская ССР прымае актыўны ўдзел у эканам. інтэграцыі сацыялістычных краін, у гандлі, навукова-тэхнічным і культурным абмене. Яна з'яўляецца адным з членаў-заснавальнікаў ААН. Рэспубліка ўносіць свой важкі ўклад у справу ўмацавання міру, пашырэння сувязей паміж краінамі. *Г. І. Каспяровіч.*

**БЕЛАЯ РУСЬ,** назва некаторых зямель Паўночна-Усходняй Русі ў 12—15 ст. і Беларусі з 15 ст. Этымалогію назвы Б. Р. у розныя часы тлумачылі паразнаму — ад прыгажосці зямлі (Макарый, 16 ст.), ад мноства снегу (С. Герберштэйн, 16 ст.), як вольная і незалежная (В. Тацішчаў, 18 ст.), як незалежная ад татара-манголаў (М. Любаўскі, 19 ст.), ад перавагі белага колеру ў адзенні насельніцтва (Я. Карскі, пач. 20 ст.), ад светлапігменціраванага і светлавокага антрапалагічнага тыпу жыхароў (М. Янчук, пач. 20 ст.). У наш час з'явіліся іншыя тлумачэнні: назва Б. Р. звязваецца з больш раннім прыняццем хрысціянства ў параўнанні з *Чорнай Руссю* (Я. Юхо), з шырокім распаўсюджаннем у тапаніміцы назваў з словам «белая» (П. Крапівін). У гіст. дакументах 12 ст. тэрмін «Б. Р.» ужываўся ў дачыненні да Уладзіміра-Суздальскага княства, а ў 13—14 ст.— да Маскоўскіх, Смаленскіх і Пскоўскіх зямель. На італьянскіх, нямецкіх, венгерскіх, шведскіх картах і ў хроніках 15—16 ст. многія замежныя аўтары Б. Р. называлі ўсх.-бел. землі, а таксама ўжывалі гэты тэрмін у дачыненні да Наўгародскіх, Пскоўскіх, Кіеўскіх, Чарнігаўскіх зямель, часам пашыралі на Валынь, Задопшчыну, Падмаскоўе. У творах польскіх храністаў і гісторыкаў Б. Р. называліся землі Беларусі: «Літва знаходзіцца паміж Жмуддзю і Белай Руссю, якая мяжуе з Маскоўскай дзяржавай» (М. Кромер, 16 ст.). У дачыненні да Беларусі гэты тэрмін ужываўся ў Густынскім летапісе (канец 16 — пач. 17 ст.), у творах польск. гісторыка і географа С. Старавольскага і інш. Польскі гісторык А. Гваньіні ў «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі» (1611) сцвярджаў: «А ёсць траякая Русь: адна Белая, другая Чорная, трэцяя Чырвоная. Белая каля Кіева, Мазыра, Мсціслава, Віцебска, Оршы, Полацка, Смаленска і Зямлі Северскай, якая здаўна належыць Вялікаму княству Літоўскаму». У 1622 папскі нунцый у Польшчы Торэс паведамляў у Рыме, што Б. Р. «цягнецца ад Рыгі, сталіцы Ліфляндыі, да Маскоўскай мяжы і ўключае Полацк, Оршу, Віцебск, Магілёў». У 17 — сярэдзіне 18 ст. назва Б. Р. стабілізавалася і замацавалася пераважна за землямі Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага, часткова Мінскага і Смаленскага ваяводстваў. Адначасова з 17 ст. у гіст. дакументах у дачыненні да ўсх. часткі этнагр. Беларусі ўжываецца і назва «Беларусь», якая ў канцы 19 ст. распаўсюдзілася на ўсю тэр. сучаснай Беларусі. Зрэдку ўжываецца для вызначэння гісторыка-этнагр. вобласці Верхняга Падняпроўя і Падзвіння.

*І. У. Чаквін, І. А. Юхо.*



У дзіцячым садзе саўгаса-камбіната «Белавежскі» (Камянецкі раён).



Дом адпачынку «Пухавічы».

**«БЕ́ЛКУ ТРЭ́СЦІ»,** дзіцячая гульня. Гульцы становяцца ў рад адзін за адным нагнуўшыся, і кожны абнімае за паясніцу папярэдняга гульца. Апошні гулец садзіцца на папярэдняга як

на каня і імкнецца хутка пры дапамозе рук пералезці далей на наступнага, з таго яшчэ далей, пакуль не перапаўзе ўсіх. Гульцы стараюцца «пералазчыка» трэсці, каб скінуць яго. Калі гулец перапаўзе ўсіх, ён становіцца наперадзе, а той, хто цяпер апошні, пачынае рабіць тое ж самае. Так працягваецца, пакуль кожны не паспрабуе прапаўзці па ланцужку.

**БЕ́ЛЬЧЫК,** кубельчык, бандарны выраб, пасудзіна на 3—4 л для дастаўкі стравы ў «рабочы вугал» (на жніво, сенажаць і інш.). Меў форму невялікай кадачкі з накрыўкай, што зачэплялася паміж вушак папярэчнай і прыстасаванай да яе гнутай ручкай. *В. С. Цітоў.*



Берасцянка.

**БЕРАСЦЕ́НЬ,** берасцянік, гліняная пасудзіна, абгорнутая бяростай. Берасцяная аплётка надавала трываласць і зніжала цеплаправоднасць сценак гліняната посуду (збанкоў, гладышоў, цёрлаў, слоікаў і інш.), прызначанага для захавання ці халоднага прыгатавання ежы. Рабілі таксама берасцяную аплётку пашкоджанага посуду (пасля гэтага яго ўжо не ставілі ў печ). Даўнасць і масавасць бытавання такога прыёму выклікалі пашырэнне назвы «Б.» нават на посуд, пазбаўлены берасцянай аплёткі (пераважна гладышы). Б. найбольш былі пашыраны на Паазер'і. У наш час выйшлі з ужытку. *Я. М. Сахута.*

**БЕРАСЦЯ́НКА,** невялікая бочачка з вечкам для хавання мёду, круп, прыпраў і інш. прадуктаў. Рабілі з берасцянага скрутка, канцы якога змацоўвалі фігурным злучэннем «у замок». Сценкі Б. аздаблялі цісненым узорам у выглядзе сеткі ці хваёвых лапак; трубачкай ці цвіком наносілі ланцужкі ўзораў з кружочкаў і кропак.

**БЕРАСЦЯ́НЫЯ ВЫ́РАБЫ,** рэчы утылітарнага і дэкаратыўна-прыкладнога прызначэння, зробленыя з бяросты. Бяросту (бярозавую кару) абдзіралі вясной, калі яна лёгка аддзялялася ад ствала, скруткамі ці стужкамі (па спіралі вакол камля) і высушвалі. Здаўна яе выкарыстоўвалі для самых розных патрэб: на ёй пісалі (берасцяныя граматы), для засцярогі сцен ад вільгаці яе пракладвалі паміж падмуркам і зрубам, з яе выраблялі розныя рэчы хатняга ўжытку. Сшываючы кавалкі бяросты гнуткімі карэньчыкамі ці скуранымі стужкамі, рабілі посуд для сыпкіх рэчываў (карабы, кашалі, сявенькі), *берасцянкі* для хавання мёду, круп, прыпраў. З берасцяных стужак плялі *вярэнькі* для пераносу прадуктаў (Палессе), заплечныя *кашалі* для збору грыбоў і ягад (Цэнтр. Беларусь), імі для трываласці апляталі гліняны посуд (гл. *Берасцень*). Дробныя рэчы (табакеркі, сальнічкі) звычайна рабілі з некалькіх слаёў бяросты (кожны наступны слой з зубчатымі краямі быў вузейшым за папярэдні, і сценкі вырабу набывалі пукатую, суцэльна аздобленую паверхню). На зробленыя з дошчачак ці кардону шкатулкі, куфэркі, ігольнікі, партсігары наклейвалі слой бяросты з прарэзаным скразным раслінным узорам, пад які часам падкладвалі фольгу (такімі вырабамі славіліся майстры Магілёва). З бяросты рабілі таксама пастухоўскія трубы. У наш час Б. в. выйшлі з ужытку. *Я. М. Сахута.*

**БЕ́РКАВЕЦ,** даўняя мера масы на Беларусі. 1 Б.=5 камяням=200 фунтам=74,96 кг.

**БЕРЛІ́НА,** пласкадоннае драўлянае грузавое судна з палубай, двухсхільным дахам і мачтай. Лакальная назва берлінка. Хадзіла судна ўніз і ўверх па цячэнню ракі з дапамогай вёслаў, *бусакоў*, ветразяў, а таксама буксірнага парахода. Служыла 10—14 гадоў. Канструкцыйна Б. падзяляліся на 2 тыпы: барачнага (руская Б.) з закругленым носам, стромкай кармой і разгорнутымі бакамі; лодачнага (заходняя, або нямецкая, Б.) з доўгім вострым носам і завостранай кармой. Абодва тыпы памерамі амаль не адрозніваліся: даўж. 21—45 м, шыр. 4—11 м, грузападымальнасць ад 50 да 600 т. Рускія Б. будавалі і выкарыстоўвалі на Дняпры і Прыпяці (лепшымі па якасці лічыліся судны, зробленыя майстрамі Веткі, Лоева, Радуля і інш. паселішчаў на Сожы). Заходнія Б. будавалі на Нёмане, Прыпяці, а таксама ў Прусіі і Польшчы, адкуль праз Зах. Буг і Дняпроўска-Бугскі канал судны заходзілі ў Прыпяць. Трывалая і зручная Б. з'явілася на рэках Беларусі ў 2-й чвэрці 19 ст. і з сярэдзіны стагоддзя паступова выцесніла *байдак* і *віціну* (у 1880—90-я г. Б. складалі $^2/_3$ усіх суднаў на Дняпры). Бытавалі да пач. 20 ст. *Н. І. Буракоўская.*



Берасцені.



Бёрда (уверсе бёрда для ткацтва рагож).

**БЕ́РМАН** Іаан Андрэевіч (1830-я г., Вільня — 16.1.1893), беларускі этнограф і краязнавец. Чл. Рускага геагр. т-ва. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю (1857). Служыў свяшчэннікам у Ашмянскім і Кобрынскім пав. Вывучаў нар. абрады, звычаі, вераванні, збіраў матэрыялы пра нар. каляндар і метэаралогію. Пра спосабы вылічэння

часу расказаў у серы арт. «Парадак народнага вылічэння часу і святочныя звычаі ў Паўночна-Заходняй Русі» («Виленский вестник», 1869; асобнае выданне, Вільня, 1869) і «Каляндар па народных паданнях у Валожынскім прыходзе Віленскай губерні Ашмянскага павета» (Запіскі рускага геаграфічнага таварыства. Спб., 1873. Т. 5), у якіх паказаў, як непісьменны селянін па памяці вызначаў адрэзкі часу паводле пэўных падзей у яго жыцці ці па святочных цыклах (пры гэтым апісваў святы з бытавымі падрабязнасцямі іх правядзення). Арт. «Назіранні нашага паўночна-заходняга сялянства адносна надвор'я і ўраджаю» («Виленский вестник», 1870) — пра нар. прыкметы, якія дапамагалі ў вызначэнні надвор'я і ўраджаю. Падкрэсліваючы рацыянальнасць і верагоднасць многіх прыкмет, адзначаў і





**Бельчык.** Вёска Валькі Талачынскага раёна. Канец 19 — пач. 20 ст.

**Берасцяныя вырабы.** Табакерка.

забабоннасць многіх вераванняў. Гэтай тэме прысвяціў арт. «Чараўнікі і знахары заходнярускага простанароддзя» (там жа, 1903). *В. К. Бандарчык.*

**«БЕС»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Выконваўся парамі, якія, узяўшыся за рукі, рабілі 4 крокі з высокімі падскокамі ў правы бок, потым 4 — у левы, пасля чаго кружыліся полькай-вальсам. Выканаўцы прыпявалі: «Каля лесу бачу беса ў чырвоных сапагах». Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Верхнядзвінскім р-не Віцебскай вобласці. *Ю. М. Чурко.*

**БЕШАНКО́ВІЦКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў з г. п. Бешанковічы. Вядома з даўніх часоў. У 1930-я г. працавала каля 30 майстроў-паліўнікаў, якія выраблялі паліваны посуд шырокага асартыменту (гаршкі, гарлачы, збаны, слаі, міскі, глякі, цукарніцы і інш.). Б. к. вызначалася простымі формамі, светла-чырвоным колерам, амаль поўнай адсутнасцю дэкору (зрэдку ўжываўся геаметрычны штамп), рознымі памерамі, у залежнасці ад якіх вырабы мелі розныя назвы: штука (гаршчок па 10 л), пугар (5 л), пецярык (2,5 л), семярык (1 л) і інш. Рабілі таксама цацкі. З 1934 на базе промыслу існавала арцель. У 1950—70-я г. вырабам Б. к. займаліся асобныя майстры. *У. В. Угрыновіч.*



Бешанковіцкая кераміка.

**БЕ́РДА,** ткацкая прылада, што служыць для прыбівання *ўтку* ў *кроснах.* Лакальная назва бярдо. Прамавугольная рама (шыр. 40—50 см і больш выш. 15—18 см) з устаўленымі і замацаванымі пласцінкамі (трасцінкамі) з тонкай (1 мм) асінавай ці кляновай лучынкі. У 20 ст. Б. пачалі рабіць з металічнымі пласцінкамі. Для ткання Б. ўстаўлялася ў *набіліцы.* Для вырабу суцэльных посцілак выкарыстоўвалі Б. да 1,5 м шырынёй. Б. для ткацтва рагож рабілі з дубовых пласцінак з вочкамі пасярэдзіне (мачальныя стужкі снавалі пачаргова ў шчыліны паміж пласцінкамі і ў вочкі). Б. выраблялі спецыяльныя майстры — бёрднікі.

**«БІБЛІЯТЭ́КА ВАРША́ЎСКА»** («Biblioteka Warszawska»), польскі кансерватыўны навукова-літаратурны часопіс. Выдаваўся на польскай мове ў Варшаве ў 1841—1914. Выйшла 295 тамоў (кожны том змяшчаў па тры сшыткі). Друкаваў працы па літаратуры, гісторыі, філасофіі, фалькларыстыцы, мастацтву, этнаграфіі, прамысловасці, біяграфіі польскіх і зарубежных даеячаў, хроніку, крытычныя артыкулы, агляды перыядычнага друку, бібліяграфічныя звесткі. Змяшчаў таксама артыкулы па фалькларыстыцы, этнаграфіі, геаграфіі, эканоміцы, гісторыі Беларусі, гісторыі асветы, царквы і права на бел. землях. Найважнейшыя з іх: «Аб святым Віце і Светавіце» Я. Мантлевіча (1845, т. 4); «Польскія прыказкі, ужываныя ў Літве і не ахопленыя ў зборы прыказак К. У. Вуйціцкага, выдадзеных у 1830 г.» Я. Тышкевіча (1850, т. 1); «Пра ўрочышчы і звычаі пінскага люду, а таксама пра характар яго песні» Р. Зянькевіча (1852, т. 4; 1853, т. 1); «Археалагічная паездка па Віленскай губерні» А. Г. Кіркора (1855, т. 2—4); «Прыказкі люду з-над Віліі» М. Камінскага (1866, т. 4);

«Землярobчыя абрады» (1867, т. 2), «Звычаі народа з ваколіц Тыкоціна і Бельска» (1868, т. 1), «Землярobчыя забабоны» (1876, т. 2), «Пчалярскія, паляўнічыя і землярobчыя забабоны» (1876, т. 4), «Метэаралагічныя забабоны люду Панараўя» (1879, т. 1) З. Глогера; «Даследаванне народных вераванняў і ўяўленняў» У. Навіцкага (1873, т. 4); «У рэдакцыю Бібліятэкі варшаўскай» Я. Карловіча (1875, т. 2); «Беларусь і беларусы» П. Зубовіча [1910, т. 1, дадатак «Praca» («Праца»), № 1—2]. *А. Ф. Літвіновіч.*

**БІКЛА́ГА,** б а к л а г а, бандарны выраб; двухдонная пляскатая пасудзіна на 5—10 л для дастаўкі вады, квасу і інш. напіткаў. Рабілася з дубовых (радзей яловых) сцягнутых абручамі клёпак, у 1,5—2 разы карацейшых за дыяметр днішча; у адной клёпцы была адтуліна, затыкалася коркам. Пераносілі на рэмені, што мацаваўся ў спецыяльных гнёздах (вушках) збоку пасудзіны. Сустракаліся Б. ў выглядзе кадачкі з носікам (апрацаваны сучок адной з клёпак). Шырока бытавалі ва ўжытку беларусаў амаль да сярэдзіны 20 ст. *В. С. Цітоў.*

**БІ́ЛА,** старажытны самагучны ўдарны інструмент. Лакальная назва калатушка. Мае выгляд прамавугольнай з вузкім перахватам пасярэдзіне драўлянай або металічнай дошкі ці бруска, па якім б'юць («калатаюць») палкай з шарыкам на канцы або малатком. Б. вялікага памеру падвешвалі на бі́льніцу, малое Б. трымалі ў руцэ. Пры ўдары па Б. ўзнікаюць моцныя рэзкія гукі неакрэсленай вышыні. Выкарыстоўвалі як сігнальны інструмент, эмацыянальна камунікатыўны змест сігналаў успрымаўся праз тэмп удараў. Выкарыстоўвалася і ў манастырскім побыце (для адбівання часу дня, паведамлення пра розныя здарэнні). У 16—17 ст. тэрмінам Б. карысталіся і для абазначэння малатка для настройкі струн і пёрка для брынкання па струнах. Б. зрэдку ўжываецца і ў наш час (у старажоўстве, на будоўлях). Б. называюць таксама язык звана. *І. Дз. Назіна.*

**БІЛІНГВІ́ЗМ** э т н і ч н ы (лац. bis двойчы + lingua мова), валоданне двума моўнымі сістэмамі і карыстанне імі; тое, што і *двухмоўе.*

**БІ́ЛЬЦЫ,** п я л ь ц ы, прыстасаванне для вышывання ў выглядзе рамы або круга, на якія нацягваецца і замацоўваецца тканіна.

**БІНА́РНЫЯ АПАЗІ́ЦЫІ** ў м і ф а л о г і і, сістэма двайчых процістаўленняў, якія вызначалі прасторавыя, часавыя, ацэначныя і інш. характарыстыкі асноўных з'яў і персанажаў *міфаў*, падкрэслівалі дуалізм і адзінства ў рамках міфаў. Найбольш універсальны сродак апісання семантыкі ў міфалагічнай мадэлі свету. Да прыкладаў Б. а. адносяцца процістаўленні тыпу верх — ніз, неба — зямля, зямля — падземнае царства, правы — левы, усход — заход, белы — чорны, мужчынскі — жаночы, свой — чужы, цот — няцот і г. д. Апазіцыя верх — ніз у слав. міфалогіі трактуецца як процістаўленне неба і зямлі, вырыіпаліны і карaнёў сусветнага дрэва; агонь — вільгаць увасабляюцца ў матывах барацьбы гэтых стыхій. Узор Б. а. ў бел. фальклорнай абраднасці — адначасовае гуканне вясны і праводзіны зімы. У нар. казках частыя процістаўленні жывой і мёртвай вады, становячага героя-асілка і страшыдла-цмока. Набор элементаў Б. а. можа рэалізавацца і ў тэкстах (казках, замовах, прыкметах), і ў размяшчэнні матэрыяльных помнікаў, звязаных са старaж. культамі. Вядома, што ў старaж. Кіеве ідал (стод) Перуна стаяў на гары, а Вялеса — на Падоле, у ніжняй частцы горада. Паводле назіранняў Н. Велюса, які вывучае светапогляд старaж. балтаў, балцкай культуры зах. арэала адпавядаюць левыя, нізкія полюсы апазіцый, культуры ўсх. арэала — правыя, высокія. Міфалогія ўсх. балтаў характарызуецца як міфалогія неба, сярэдніх балтаў — як міфалогія зямлі, зах. балтаў — як міфалогія падземнага свету. У нар. мастацтве зах. арэала перавага аддаецца чорнаму і сіняму колерам, ва ўсх.— беламу і чырвонаму. Паколькі частку тэр. Беларусі ў першабытны час засялялі балты, некаторыя высновы Велюса датычаць і бел. матэрыялу. Упершыню прынцып Б. а. пры вывучэнні першабытнай міфалогіі вылучаны французскім вучоным К. Леві-Строссам. З сав. даследчыкаў гэты прынцып для вывучэння старaж. светапогляду найбольш выкарыстоўваюць В. У. Іваноў, В. М. Тапароў, Велюс, М. В. Паповіч. *Э. М. Зайкоўскі.*





Біклага. Канец 19—пач. 20 ст.

Біла.

**БІРУ́ЛЬКА,** 1) невялікая палачка, што ўжывалася замест гузіка. Лакальныя назвы бірулка, бірылка. 2) Блок у кроснах для нітоў.

**«БІРУ́ЛЬКІ»,** гульня. З кучкі дробных прадметаў неабходна выбраць кручком усе прадметы адзін за адным, не пасунуўшы пры гэтым астатніх.

**БІРУ́ТА** (сапр. Д а р а в і н с к а я) Derewińska Амелія (1863, в. Ройсталі, цяпер у межах Вільнюса — 27.7.1891), беларуская і польская фалькларыстка і этнограф. Адукацыю атрымала ў Варшаве. Настаўнічала ў Лідскім пав. (дзе запісвала бел. фальклор і праводзіла этнагр. назіранні). Друкавалася ў краязнаўчым час. «Wisła» («Вісла»). У 1889 змясціла ў ім нарыс «Дажынкі на Літве», у якім дала апісанне жніўнага абраду з песнямі ў в. Шаўры Лідскага пав.; паданні «Сосны ў Лідзе», «Пра касцёл святой Ганны ў Вільні»; «Паданне пра Пілакальскую гару» (у Ваўкавыскім пав.). Пасмяротна апублікаваны «Беларускія песні з Лідскага павета» (час. «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» — «Збор звестак па айчыннай антрапалогіі», 1892, т. 16), куды ўвайшлі 24 тэксты пазаабрадавай лірыкі (сямейна-бытавыя, рэкруцкія, любоўныя песні), і нарыс «Над прускай граніцай» (час. «Wisła», 1899, т. 13) з апісаннем жыццёвага укладу літоўцаў паўд.-зах. часткі Ковенскай губ. Аўтар манаграфіі «Народ Лідскага павета» («Апісанне Лідскага павета», не зберагласся). Асобныя рукапісы, дакументы, звязаныя з дзейнасцю Б., знаходзяцца ў ЦДГА Літ. ССР (фонд Я. Карловіча) і ў Варшаве. *І. У. Саламевіч, У. А. Васілевіч.*

**БІ́ТКА,** разнавіднасць *церніцы*, ад якой адрознівалася большымі памерамі. Лакальныя назвы ламаха, мядзведзь. Служыла для папярэдняга разміnання льняной саломкі.

**БІЧО́ЎНІК,** б і ч а ў н і к, берагавая паласа ўздоўж суднаходных рэк і каналаў шыр. 20—30 м, прызначаная для ходу бурлакоў (гл. *Бурлацтва*). Уздоўж Дняпроўска-Бугскага і Агінскага каналаў насыпаны штучныя Б.

**БЛАГАВЕ́ШЧАННЕ,** з в е с т а в а н н е, старажытнае веснавое свята *народнага календара*, якое адзначалі 25 сакавіка с. ст. Рэлігійнае свята Б. звязана з евангельскім міфам пра архангела Гаўрыіла, які паведаміў маці божай пра непарочнае зачацце і нараджэнне ёю Ісуса Хрыста. У народзе свята Б. лічылася днём надыходу вясны (на Б. звычайна пачыналі *гуканне вясны* і спяванне веснавых песень). З Б. звязана шмат павер'яў і забарон, у якіх выявілася ідэя зараджэння новага жыцця (магія першага дня) — у гэты дзень забаранялася працаваць («на Б. дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе»). Шматвяковыя назіранні над

прыроднымі з'явамі ператварыліся ў прыкметы («калі саней не пакінуць за тыдзень перад Б., то яны спатрэбяцца на цэлы тыдзень і пасля Б.»), па тым, якое было надвор'е, меркавалі пра будучы ўраджай («калі на Б. дождж, будзе ўраджай на жыта; калі сухое, цёплае надвор'е, лета будзе засушлівае, а восень марозная: калі на Б. прайшоў снег, будзе мокрае лета» і інш.). *У. А. Васілевіч.*

**БЛАГАСЛАВЕ́ННЕ,** абрад, у час якога бацькі і род уступаючых у шлюб маладых давалі на гэта згоду, выказвалі пажаданне ўсяго найлепшага ў сямейным і гаспадарчым жыцці будучай сям'і, а таксама дазвол на выкананне традыцыйных вясельных рытуалаў. Б. пачыналіся амаль усе рытуальныя дзеянні ад ад'езду жаніха разам са сватам на *запоіны* і да падзелу каравая ўключна. Выкананне абраду Б. тлумачыцца верай у магічную сілу слова і калектыўнай формай вясельнага цырыманіялу. У час *вяселля* звычайна старшая дружка (баярка), радзей каравайніца або сваціа, якія кіравалі пэўным этапам вяселля, звярталіся са спецыяльнымі славесцымі формуламі (у розных мясцовасцях яны вар'іруюцца) да бацькоў, сваякоў, суседзяў і ўсіх прысутных з просьбай благаславіць маладых на выкананне адпаведных абрадавых дзеянняў (саджаць у печ каравай, пачаць вяселле, віць вянок, выпраўляць маладую да маладога і г. д.). На такую просьбу прысутныя адказвалі коратка: «Няхай бог благаславіць, і мы благаслаўім». У іншых выпадках маладыя звярталіся да бацькоў, кутка (продкаў), сваякоў і ўсіх прысутных з просьбай благаславіць іх на шлюб, шчаслівую долю, на выкананне адпаведных рытуальных дзеянняў. Часам маладыя толькі кланяліся, а бацькі і прысутныя — благаслаўлялі іх. Бацькоўскае Б. лічылася самым неабходным і дзейсным у забеспячэнні дабрабыту і долі будучай сям'і. Таму без бацькоўскага Б. вяселле не адбывалася (калі шлюб бралі сіроты, то яны хадзілі на могілкі і прасілі Б. ў бацькоў-нябожчыкаў). У вяселлі Б. атаясамлівалася з надзяленнем маладых хлебам, соллю, гаспадарчымі рэчамі і г. д. Найбольш разгорнутае і эмацыянальна насычанае — Б. маладой у яе доме перад ад'ездам яе да шлюбу і да маладога. Для гэтага пасярод хаты перад сталом рассцілалі спецыяльны яркі дыван (звычайна чырвоны). Бацькі маладой садзіліся на ўслон спіной да стала, бралі з яго хлеб-соль, брат або хто-небудзь са сваякоў на ручніку падводзіў маладую, якая станавілася перад бацькамі на калені на дыван і схіляла галаву. Маці, узяўшы са стала хлеб-соль, рабіла ім над галавой маладой знак крыжа і жадала ёй «шчасця-долі, хлеба-солі, здароўя, доўгага веку, добрага чалавека» і г. д. Маладая ў знак падзякі цалавала хлеб-соль, а бацькоў — у руку, потым, не мінаючы нікога, кланялася кожнаму прысутнаму паасобку. У адказ кожны благаслаўляў яе. Б. маладога праходзіла больш сціпла. Характэрным для вяселля з'яўляецца Б. яго пачатку. Пачынальнік, седзячы на печы, рачытатывам выконваў спецыяльную песню і біў піражком аб піражок (ПнУ Беларусі). Пры Б. ўжываўся і абраз (звычай Б. абразом узнік пад уплывам хрысціянства, замяніўшы існаваўшае раней пакланенне покуці). *Л. А. Малаш.*

**БЛА́ГАЎСКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў з вёсак Благаўка, Новае Вільянова, Літвінавічы Шклоўскага р-на. У 19 — пач. 20 ст. тут выраблялі чырвоную непаліваную, а таксама гартаваную і чорназадымленую кераміку гаспадарчага прызначэння: гаршкі, гладышы, збанкі, цёрлы, вазонніцы, спарышы. З пач. 20 ст. пашырана паліваная кераміка з зялёнай палівай. Вызначаецца агграбнымі формамі мяккай мадэліроўкі, надзвычай тонкім чарапком. Шурпатая паверхня крэмавых адценняў прыгожа кантрастуе з зялёнай палівай, нанесенай на ўнутраную паверхню і верхні вонкавы край посуду. Часам на верхнюю частку вырабаў наносілі выцісныты дэкор у выглядзе 2—3 хвалістых ці роўных пасякоў. Промысел спыніўся ў сярэдзіне 1960-х г. Калекцыі Б. к. зберагаюцца ў Дзярж. мастацкім музеі БССР, Дзярж. музеі БССР. *Я. М. Сахута.*

**БЛА́ХВА,** назва бавоўняных каляровых (чырвоных, сініх, чорных) нітак для вышывання і ткання. Тэрмін «Б». быта-ваў пераважна ў паўд.-зах. частцы Брэстчыны, а таксама на Віцебшчыне.





**Блісня** (фрагмент).

**Блісні.** Вёска Перабраддзе Міёрскага раёна.

**БЛІНЫ́,** традыцыйны мучны выраб. Лакальная назва блінцы. Пшанічную, жытнюю, ячную, грэцкую ці аўсяную муку замешваюць на малацэ або сыраквашы, сыроватцы. Б. рабіліся кіслыя, на рошчыне, і прэсныя, на содзе. У цеста часам дадаюць яйкі, цукар. Пякуць на падмазцы. Падаюць з *мачанкай*, падсмажаным салам, смятанай, малаком. З пшанічнай мукі пякуць невялікія тоўстыя бліны — *аладкі* і тонкія — *налісанкі*. Апошнія начыняюць тварагом, мясам і інш. Б. шырока вядомы на ўсёй Беларусі.

**БЛІСНЯ́,** традыцыйная вуда для лоўлі рыбы летам каля калод і ў карчах, зімой — у палонках. Лакальныя назвы аблітня, трасучка, даёргалка. Вудзільна кароткае. Кручок улітаваны ў алавяную (свінцовую) пласцінку ў форме рыбкі ці кроплі. У якасці дадатковай прылады насаджваюць чарвяка. Прыманьваюць рыбу патаргваннем пласцінкі з кручком. Лоўля Б. была пашырана на вадаёмах Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай абл. У мінулым Б. былі самаробныя, у наш час фабрычнага вырабу. *І. М. Браім.*

**БЛО́МКВІСТ** Яўгенія Эдуардаўна [9(21).11.1890—27.7.1956], савецкі этнограф. Д-р гіст. навук (1950). Скончыла жаночы педагагічны ін-т (1914), Ленінградскі геагр. ін-т (1924). Узначальвала славяна-рускі сектар Ін-та этнаграфіі АН СССР. Аўтар прац па этнаграфіі народаў Паўн. Амерыкі і ўсх. славян. У працы «Сялянскія пабудовы рускіх, украінцаў і беларусаў» (1956) на падставе археалагічных і этнагр. прац, архіўных, музейных і экспедыцыйных матэрыялаў прасачыла развіццё сельскіх пасяленняў, сядзіб, жылля, гаспадарчых пабудоў і будаўнічай тэхнікі ўсх. славян са стараж. часоў да сярэдзіны 20 ст. Упершыню выявіла агульныя рысы і спецыфічныя асаблівасці гэтых галін матэрыяльнай культуры рускіх, беларусаў і ўкраінцаў, правяла іх класіфікацыю і тыпалогію. *В. К. Бандарчык.*

**БОБ ВА́РАНЫ,** традыцыйная беларуская страва. Папярэдне замочаны боб апускаюць у ваду, дабаўляюць соль і вараць на невялікім агні. Часам заскварваюць салам з цыбуляй. Страва вядома па ўсёй Беларусі.

**«БОБ МАЛАЦІЦЬ»**, традыцыйны танец. Танцавалі па двое або па трое. Для яго характэрна кручэнне дзяўчыны пад рукой хлопца і раўнамерныя прыстукванні ступнямі аб падлогу (у час выканання танца «сем пар лапцей разбівалі»). Выконваецца пад прыпеўку «Дзед боб малаціў,//Баба падсявала,//Баба падсявала,//Дзеткам раздавала». У іншых варыянтах танца хлопец перад дзяўчатамі выконвае сольныя імправізаваныя рухі або ўсе выканаўцы становяцца ў круг, бяруцца за рукі і ідуць па крузе, падскокваючы ў такт прыпеўкі, рытмічна ўздымаюць і апускаюць рукі (быццам выконваюць нейкую работу). Распаўсюджаны на ўсёй Беларусі. Найбольш поўнае апісанне танца зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Віцебскай вобласці. *А. Л. Варламаў.*

**БОБ ПРАЖАНЫ**, традыцыйная страва. Папярэдне замочаны ў падсоленай вадзе боб кладуць на змазаную тлушчам або алеем патэльню. Падсмажваюць на невялікім агні. Страва вядома па ўсёй Беларусі.

**БОЙКА**, м а с л а б о й к а, бандарны выраб; пасудзіна для збівання масла. Лакальная назва біянка. Вызначалася разнастайнасцю форм і канструкцый. Найчасцей — вузкая высокая кадачка з клёпак. У накрыўцы пасярэдзіне адтуліна для калатоўкі (біла), верхні канец якой выходзіў вонкі, а да ніжняга прымацоўвалі кружок з дзіркамі (пашыраны варыянт) ці крыжавіну (ударная частка). Такой жа формы Б. выдзёўбвалі з суцэльнай круглай калодкі. На Беларусі (пераважна на Палессі) былі вядомы Б. цыліндрычнай формы гарызантальнага профілю (у выглядзе 2-доннай бочачкі, у якой было «акенца» з засоўкай); масла збівалі вярчэннем ручкі, што прыводзіла ў рух лопасці. У даўнім сялянскім побыце масла збівалі і ў ганчарных пасудзінах (гаршку, макітры і інш.) з дапамогай драўлянай лыжкі ці калатоўкі. На Усх. Палессі гэты спосаб захаваўся да пач. 20 ст. *В. С. Цітоў.*

**БОМ**, ланцуг са змацаваных бярвёнаў, якім перагароджвалі раку або адгароджвалі затон для затрымання лесаматэрыялаў пры звязванні плытоў. Лакальная назва забома.

**БОМЫ**, званочкі ў выглядзе пустых металічных шарыкаў з кавалачкамі металу ўсярэдзіне. Прымацоўваюць да хамута ці дугі.

**БОНДА**, 1) беларускі народны звычай частавання блізкіх і аднавяскоўцаў свежынай, а таксама хлебам, садавінай, агароднінай новага ўраджаю. Дзяліліся мясам дамашняй і забітай у час палявання дзікай жывёлы, рыбай, мёдам (у час яго выбірання з вулляў). Звычай сведчыць пра існаванне ў старажытнасці калектыўнай (абшчыннай) гаспадаркі і грамадскай уласнасці. У наш час страціў сваю назву, але паранейшаму захоўваецца як нар. традыцыя калектыўных узаемаадносін. 2) Старадаўняя назва *пасагу*, запасу грошай, адзення. 3) Круглая пшанічная булка. *М. Ф. Пілiпенка.*

**«БОНДАР»**, традыцыйны танец. Выконваўся двума мужчынамі, адзін з якіх імітаваў бочку, другі нібы яе «збіраў»: прыладжваў адну да адной клёпкі, набіваў абручы. Калі «бочка» была гатова, абодва пачыналі танцаваць. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гомельскай вобласці.

**БОНДАРСТВА**, рамяство, выраб драўлянага посуду з клёпак (гл. *Бандарныя вырабы*). Клёпкі (падоўжныя трапецападобныя ці акруглыя планкі) апрацоўвалі на варштаце з дапамогай струга, гэбля і гэбліка. Для надання клёпцы ўвогнутага профілю выкарыстоўвалі *скоблі* і шархебель (від гэбліка з паўкруглым лязом). Больш складаным быў выраб акруглай бачарнай клёпкі, бакавы авал якой размячаўся цыркулем (размер) і прымяраўся ў спецыяльным шаблоне (модла). З гэтай мэтай выкарыстоўвалі і спецыяльны *варштат* у выглядзе шырокага ўслона з сегментавіднай адтулінай пасярэдзіне — шаблонам для клёпкі. Абручы рабілі на варштаце з дапамогай струга і нажа, гнулі на спецыяльнай калодзе — *гбале*, ці бабе. Днішча размячалі цыркулем. Уторны паз для мацавання днішча выпілоўвалі *заторам*, які меў лакальныя асаблівасці ў форме і канструкцыі. Найбольш старажытны спосаб — сцягванне бочак абручамі рознай велічыні з дапамогай *нацягуша* і *чакухі*; пазней выкарыстоўвалі таксама вяроўкі ці ланцугі, якія намотваліся на кола (па тыпу лябёдкі), кліны і лісічкі (драўляныя зажымы). Важным у бандарнай справе было выкарыстанне той ці інш. драўніны: нар. майстры ўлічвалі пароду дрэва, яго стан, вільготнасць, умовы росту, сезон нарыхтоўкі. Адной з самых каштоўных парод быў дуб. З яго выраблялі бочкі і кадкі пад квас, сок, грыбы, гародніну; пры гэтым апрача трываласці і даўгавечнасці пасудзін мелася на ўвазе і здольнасць драўніны надаваць прадуктам спецыфічны смак, садзейнічаць працэсам квашання. З дубу рабілі таксама вёдры для студні, біклагі, барылкі, кубельцы і дзежкі; у дзежках дубовая клёпка нярэдка чаргавалася з сасновай ці яловай. З сасны найчасцей рабілі цэбры, балеі, жлукты, кублы, часам — бочкі і кадзі. Пры вырабе даёнак, боек, вёдзер аддавалі перавагу елцы, драўніна якой больш цвёрдая і менш успрымальная да вільгаці. Асіна і вольха больш прыдатныя для мер ёмістасці, пасудзін пад збожжа, кублаў для адзення. З асіны рабілі бочкі пад капусту. Абручы для посуду выраблялі звычайна з ляшчыны і дубу, радзей з елкі. Пры вырабе біклаг, барылак, вёдзер нярэдка выкарыстоўваліся жалезныя абручы, зробленыя мясцовымі кавалямі, аднак жалезныя элементы (абручы, ручкі, вушкі) часцей адносіліся да гарадскіх вырабаў. Бел. майстры, дасканала валодаючы бандарным інструментам, тонка адчувалі пластыку дрэва. Ведаючы разнастайныя якасці пэўных парод, яны ўмела выкарыстоўвалі іх пры вырабе розных відаў посуду. Майстар-бондар падыходзіў да кожнага традыцыйнага элемента асэнсавана і рабіў усё трывала, з густам. Функцыянальная мэтазгоднасць і канструкцыйны рацыяналізм, лаканізм ліній і форм, сціпласць аздаблення — адметныя рысы, што вызначалі жыццёвую сілу нар.


**«Боб малаціць».** Танец выконвае жыхарка вёскі Клясціцы Расонскага раёна.


**Бойкі** (вертыкальнага і гарызантальнага профіляў).

рамяства. Без пісьмовых нарматываў і інструкцый нар. майстры інтуітыўна прытрымліваліся аптымальных параметраў (сучасныя патрабаванні Дзяржстандарта заснаваны на выніках шматвяковай практыкі нар. рамяства). Па-



раўнанне з археалагічным матэрыялам (з раскопак старажытных Бярэсця, Полацка, Мінска, Гродна) не выяўляе істотных адрозненняў у тэхналогіі Б. і сведчыць аб трываласці і пераймальнасці вытворчых традыцый. У 19 — пач. 20 ст. вылучаліся асобныя раёны, дзе Б. набыло найбольш шырокае развіццё і як саматужны промысел з'яўлялася важнай падмогай у сялянскай гаспадарцы (Барысаўскі, Горацкі, Клімавіцкі, Сенненскі, Слуцкі пав.). Сваю прадукцыю бондары збывалі на месцы або везлі на бліжэйшыя рынкі і кірмашы. Мноства бандарнай клёпкі звозілася да рачных прыстаней і па Нёмане, Бугу, Зах. Дзвіне вывозілася за мяжу; тутэйшая дубовая клёпка, вядомая пад назвай «мемельская», лічылася адной з лепшых у Еўропе, яе ахвотна куплялі прамыслоўцы Германіі, Францыі і інш. краін. З 1920-х г. у вытворчасці бандарнага посуду істотную ролю набылі саматужна-прамысловыя арцелі. Кааперацыя працы, механізацыя вытворчых працэсаў, выкарыстанне ўдасканаленых прылад збліжалі арцель з дзярж. прадпрыемствам. У наш час патрэбы арганізацый і насельніцтва ў бандарным посудзе задавальняе ў асноўным прамысловая бандарная вытворчасць.

*В. С. Цітоў.*

**БО́НДАРЫ,** рамеснікі, майстры па вырабу драўлянага посуду (гл. *Бандарныя вырабы*). У Вял. кн. Літоўскім вылучаліся ў асобныя двары (службы) і паселенні. Працавалі ў панскіх маёнтках, манастырах, пры замках. У гарадах Б. стваралі свае цэхі. Існавала спецыялізацыя рамеснікаў на асобных стадыях бандарных вырабаў. У сярэдневяковых інвентарах часта ўпамінаюцца службы клепачоў, якія выраблялі клёпку. У 18 — пач. 20 ст. клёпку на Беларусі выраблялі на экспарт. Для сельскіх майстроў *бондарства* было пераважна падсобным для земляроба заняткам. У вёсцы Б. ёсць і ў наш час.

*В. С. Цітоў.*

**БОР,** дзялянка лесу, на якой знаходзілася 60 *борцяў*; выступаў як падатковая адзінка. Лакальная назва вотчына. Не меў пэўна акрэсленых памераў, займаў плошчу каля 30—35 кв. вёрст. Борці размяшчалі на адлегласці 1—1,5 вярсты адна ад адной. Форма Б. залежала ад рэльефу мясцовасці; іншы раз ён меў форму вузкай паласы да 20—25 вёрст. Падзяляўся на паўбор і чвэрцьбор. У скарбовых пушчах з кожнага Б. спаганялася *ручка* мёду.

**БО́РТНАЕ ЗНА́МЯ,** б о р т н ы з н а к. Называлася таксама кляйно. Абазначала прыналежнасць *борці* пэўнаму гаспадару. Б. з. высякалі на ствале борцевага дрэва на ўзроўні вачэй. У аснове кампазіцыі — геаметрычныя фігуры: спалучэнні розных па велічыні і форме трохвугольнікаў, рысак, дужак і інш. Аналагічныя знакі ўжываліся пры межаванні зямлі, лугоў, лесу, азёр, рэчак. Б. з. былі своеасаблівымі сямейнымі гербамі, якімі абазначалі ўласныя рэчы і прылады працы. Старцы, дзесяцкія і інш. выбарныя кіраўнікі сялянскіх грамад у 15—17 ст. выкарыстоўвалі Б. з. замест подпісаў на службовых паперах, копнікі — на пастановах копных судоў. Стараж. Б. з. захаваліся да нашага часу. Адным з іх пазначаны 500-гадовы дуб «Мінтус» каля в. Рашотнікі Рэчыцкага р-на.

*С. Ф. Цярохін.*

**БО́РТНІКІ,** пчаляры, якія займаліся ўтрыманнем і доглядам баровак (лясных пчол) у *борцях*. Лакальныя назвы барцылазы, вотчыны. Б. рабілі новыя борці і засялялі іх, рыхтавалі прынаду для раёў, чысцілі борці, выбіралі мёд, ахоўвалі пчол ад неспрыяльнага надвор'я (дажджу, вільгаці, марозу), шкоднікаў (мядзведзяў, мурашак). Умельства Б. перадавалася з пакалення ў пакаленне і ў шмат якіх сем'ях бортніцтва было спадчынным на працягу стагоддзяў.

*С. Ф. Цярохін.*

**БО́РТНІЦТВА,** старадаўні лясны промысел, пачатковая форма культурнага *пчалярства*. Заснавана на развядзенні і ўтрыманні лясных пчол — *баровак* — у штучных дуплах — *борцях*. Развілося з дзікага пчалярства, калі чалавек выпадкова (збіральніцтва), а пазней свядома (паляванне за мёдам) знаходзіў пчаліныя гнёзды ў дуплах дрэў, знішчаў агнём пчол і забіраў мёд. Як самастойны від лясного промыслу Б. прайшло 3 этапы развіцця: ахова і догляд дзікіх пчол у знойдзеных дуплах, свядомае ўтрыманне аселенага рою ў прыстасаваных пад борці натуральных дуплах, развядзенне і ўтрыманне рою ў спецыяльна зробленых



**Бондар** за працай. Вёска Нівы Жлобінскага раёна.

**Бондарства.** Сцягванне корпуса бочкі. Вёска Стадолічы Лельчыцкага раёна. 1978.



**Бондарства.** Бандарныя інструменты (злева направа): пілка, цыркуль, скобля звычайная, скобля малая, струг, затор, фуганак. Вёска Хатынічы Ганцавіцкага раёна.



Бортныя знамёны.

борцях. Станаўленне працэсу Б. адбылося ў 1 ст. н. э., што пацвярджаецца ўскосна-лінгвістычным матэрыялам (словы «мёд», «воск», «матка», «труцень» этымалагічна ўзыходзяць да агульнаслав. моўнага адзінства). Пераход да класічнай формы Б. адбыўся са з'яўленнем жалезных прылад працы (сякера, пешня), калі стала магчымым выдзёўбваць борці ў сырых ствалах дрэў; свайго росквіту дасягнула ў 10—12 ст.

На працягу стагоддзяў Б. задавальняла патрэбы ўсх. славян ў мёдзе і інш. прадуктах жыццядзейнасці пчол — воск, прапаліс. Мёд і воск былі галоўным відам экспарту. У пач. 16 ст. толькі праз Полацкую мытную камору штогод вывозілася больш за 2 тыс. пудоў воску. У той час на Беларусі было больш 1 млн. борцяў, таварная прадукцыя якіх перавышала 0,5 млн. пудоў мёду штогод. Б. было прыбытковай галіной гаспадаркі. У 1773 Члухаўскае лясніцтва ў Аўгустоўскай пушчы за продаж драўніны выручыла 14 талераў 25 грошай, а бортны падатак склаў суму 507 талераў. Б. выпрацавала сваю тэхналогію ўтрымання і догляду пчол, адмысловую тэхніку вырабу борцяў, бортных прылад і прыстасаванняў *(барта, зубель, лязіва, медарэз, пешня, ройніца, сікайка, сітак)*, посуду для захоўвання і транспарціроўкі мёду *(берасцень, кадоўб, кузьня, лазьбень, ліпаўка, ліпечня, ручка)*, а таксама сродкі аховы борцяў (*подкур, самабітка*, осцы — вострыя дубовыя і металічныя штыры, што забівалі пад борцю, каб перашкодзіць мядзведзю дабірацца да пчол), свае прававыя нормы. З канца 17 ст. ў выніку масавых высечак лясоў на продаж, пад ворыва, для прамысловых мэт пачаўся заняпад Б., а ў 1-й пал. 19 ст. яно страціла сваё ранейшае гаспадарчае значэнне і саступіла месца *калоднаму пчалярству*. Да таго ж Б. несла само ў сабе перадумовы будучага заняпаду. Існуючая роебойная сістэма пчалярства, пры якой восенню знішчалі найбольш моцныя сем'і, а на зіму пакідалі слабыя, частка якіх не дажывала да вясны, вяла да выраджэння мясцовай папуляцыі бортных пчол і змяншэння іх агульнай колькасці. Адмоўна паўплывала на развіццё баровак і ніжняя падрэзка сотаў у час медазбору, што вымушала пчол закладваць расплод не ў новых (як гэта адбывалася ў натуральных умовах), а ў старых сотах. Ў асобных, чыста рэліктавых выпадках, Б. захавалася да нашых дзён.

*У. С. Гуркоў, С. Ф. Цярохін.*

**БО́РТНЫЯ ЦЭ́ХІ,** карпаратыўна-прафесійныя аб'яднанні бортнікаў з шырокімі правамі самакіравання. На Беларусі вядомы з 14 ст. У гарадах і мястэчках аб'ядноўвалі бортнікаў з мяшчан і дробнай шляхты. Вытворчая дзейнасць і побыт рэгламентаваліся статутам, зацверджаным гарадской радай. У адрозненне ад *мядовых брацтваў* у Б. ц. ўваходзілі бортнікі розных веравызнанняў. Пры паступленні ў цэх бортнікі прымалі прысягу на адданасць, паслухмянства, захоўванне сакрэтаў і выкананне патрабаванняў бортнай юрысдыкцыі. Узначальвалі цэхі выбраныя на штогадовым агульным сходзе бортны староста, падсудак і пісар, пазней у кіраўніцтва ўваходзілі і 2 лаўнікі, а падсудка замяніў гаевы (суддзя). Кожны цэх меў свой статут, пячатку, скарбонку, пратэсу (харугву) з выявамі патрона пчалярства Іаана Златавуста, пчол і бортных рэалій. У час ваенных дзеянняў бортнікі выступалі ў складзе апалчэння пад сваёй цэхавай пратэсай. Пячатка і пратэса віленскага Б. ц. зберагаюцца ў саборы Пятра і Паўла ў Вільнюсе. *У. С. Гуркоў, С. Ф. Цярохін.*

**БО́РЦІ,** адно з балцкіх плямёнаў, якое насяляла паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж ніжнім цячэннем Віслы і Нёмана. Лакальная назва барцеве. У 1283 іх землі канчаткова захапіў Тэўтонскі ордэн. Частка насельніцтва мігрыравала на тэр. Літвы і Беларусі (сучасныя Браслаўскі, Ашмянскі, Воранаўскі, Мастоўскі, Лідскі, Ваўкавыскі, Баранавіцкі р-ны). Асіміляваліся з беларусамі і літоўцамі. Вызначаліся высокім майстэрствам у будаўніцтве мастоў (літоўскае барцяк — мостабудаўнік). Сляды пражывання на землях Беларусі захаваліся ў шматлікіх тапонімах — Барцюнішкі, Барцякі, Борці і інш. У Воранаўскім р-не бытуе слова «барцяк» у значэнні лесавік, лясны жыхар. *С. Ф. Цярохін.*

**БОРЦЬ,** 1) штучнае або прыстасаванае натуральнае дупло ў дрэве (хвоі, дубе, часам у ліпе, асіне), дзе жылі дзікія пчолы. Лакальныя назвы бартак, боруць, кляшня. Б. выдзёўбвалі пад кронай дрэва на вышыні 4—15 м ад зямлі. З зацішнага і сонечнага боку рабілі вузкую прамавугольную адтуліну (доўжня, века, лазейка), праз якую высякалі пешняй камору Б., а потым праз яе выконвалі ўсе работы па догляду за пчоламі. Доўжню закрывалі дубовым бруском і дадаткова прыкрывалі дубовай дошкай (снет, сняток), прымацаванай да дрэва двума штырамі з

правушынамі для затычак. Побач са снетам свідравалі лятак — адтуліну для ўваходу і выхаду пчол. На Беларусі вядомы трапецападобнай формы каморы Б. Памеры іх былі розныя. Функцыянальна Б. падзялялася на галаву, або шапку, дзе размяшчалася пчаліная сям'я, сярэдзіну, дзе на ўмацаваных распорах (крыжачкі, грабёнкі) пчолы будавалі соты, і дно (под, подак), куды ападала смецце і адыходы ад пчол. Для прываблівання дзікіх пчол (баровак) рабілі тварбу (прынаду). Сценкі каморы Б. націралі духмянымі зёлкамі, часцей за ўсё мелісай, апырсквалі сытой, клалі на дно маладую алешынавую галінку, да крыжачка прымацоўвалі вашчыну. Не заселеная пчоламі Б. называлася ялоўкай. 2) Агульная назва дрэва з Б.

*С. Ф. Цярохін.*

**БОРШЧ,** традыцыйная рэдкая кіслая страва. Вараць з квашаных буракоў, з квашанай капусты, са шчаўя, з лебяды, грыбоў (на Зах. Палессі), з баршчэўніку. Б. вараць з мясам, заскварваюць салам, затоўкваюць здорам, забельваюць смятанай. Салодкі Б. з буракоў кісляць сыроваткай, квасам, воцатам.

**БОТ,** 1) драўлянае пласкадоннае грузавое судна з палубай і мачтай. Даўж. 20—34 м, шыр. 4—8 м, грузападымальнасць ад 16 да 200 т. Лакальная назва бат. Бытавала ў 19 — пач. 20 ст. на Нёмане, Зах. Бугу, Мухаўцы. 2) Плыт з плеценымі з тоўстых прутоў бартамі. Выкарыстоўваўся на Нёмане для перавозкі грузаў летам па мелкаводдзі.

**БО́ТЫ,** тып шытага скуранога *абутку*. Назва «Б.» найбольш пашырана ў Паўн. і Цэнтр. Беларусі, «чобаты» — у Усх. і Зах. Беларусі і на Палессі. Б. былі вядомы ўсх. славянам здаўна. Тэрмін «Б.» згадваецца ў пісьмовых крыніцах 10—11 ст. У Дзярж. музеі БССР зберагаюцца шавецкія калодкі 9—10 ст. Рэшткі Б. знойдзены пры раскопках стараж. Полацка, назва «Б.» зафіксавана ў Радзівілаўскім летапісе (15 ст.). Б. як практычны і зручны від абутку былі пашыраны па ўсёй Беларусі. Форма Б., іх якасць залежалі ад саслоўнай прыналежнасці і маёмаснага стану заказчыка. Магнаты, гарадская знаць насілі Б. з лепшых гатункаў скуры, чорнага, карычневага, чырвонага, жоўтага, зялёнага колеру. Найбольш франтаватымі лічыліся каляровыя саф'янавыя Б. Упрыгожвалі іх цісненнем, вышытым арнаментам, спражкамі. Мода на каляровыя Б. захавалася да пач. 18 ст. Гараджане насілі простыя, больш танныя Б. чорнага колеру. Вытворчасць Б. у 19 ст. пераважала ў гарадах і мястэчках. Трываласцю і прыгажосцю славіліся вырабы смаргонскіх, магілёўскіх, пінскіх, петрыкаўскіх, брагінскіх рамеснікаў. У 2-й пал. 19 ст. ўзрос попыт на Б. сярод заможных сялян. Б. ў вёсцы насілі вельмі беражліва, яны пераходзілі ад бацькоў дзецям і г. д. Старыя Б. з адрэзанымі халявамі (апоркі) выкарыстоўваліся як паўсядзённы абутак. Б. былі пераважна



Борць.



**Боты.** Вёска Цераблічы Столінскага раёна.

мужчынскім абуткам, але насілі іх і жанчыны. Паводле функцыянальнага прызначэння падзяляліся на бытавыя (святочныя, будзённыя) і спецыяльныя (ваенныя, паляўнічыя і інш.). Рабілі Б. са скуры буйной рагатай жывёлы, коней, свіней, авечак і коз. З бычыных скур выраблялі падэшву, з каровіных, конскіх, свіных — юхт на халявы і перады (галоўкі), з казіных або авечых — саф'ян. Тыпалогія Б., іх крой і тэхналагічныя прыёмы пашыву з цягам часу мяняліся. Па спосабу пашыву самым стараж. тыпам лічацца т. зв. вываратныя Б. Пры іх вырабе ўжывалася ўнутранае шво; выкраеныя дэталі складвалі правым бокам унутр і прашывалі па краю дратвай (навошчанымі суканымі льнянымі ніткамі). Спачатку сшывалі халявы (часцей за ўсё мелі адно шво — ззаду або збоку, але сустракаліся і з двума швамі па баках). Да халяў на калодцы падшывалі падэшву (знутры, двухнітачным патайным швом), потым распраўлялі. Б. былі сіметрычныя — іх шылі на адной калодцы для левай і правай нагі, мяккія (без падкладкі, заднікаў і абцасаў), з невысокімі халявамі. Падэшва складалася з некалькіх слаёў тонкай скуры. У 14 ст. пачалі выбляраць тоўстую падэшву, якую для трываласці прыбівалі драўлянымі цвікамі. У 15 ст. з'явіліся асіметрычныя калодкі (для правай і левай нагі), Б. сталі рабіць з цвёрдым заднікам (перакладзеным бяростай) і наборным абцасам (з некалькіх слаёў скуры), на які мацавалася дугападобная жалезная набойка. Драўляны (бярозавы) абцас, абцягнуты скурай і падбіты жалезнай падкоўкай, вядомы з 18 ст. і быў пашыраны ў 19 ст. У 2-й пал. 19 ст. пачалі шыць рантавыя Б., якія адрозніваліся ад вываратных спосабам мацавання падэшвы. Яе прышывалі звонку да ранта дратвай і прыбівалі драўлянымі цвікамі. Халявы сшывалі па-ранейшаму знутры; спачатку рабілі іх шырокімі і мяккімі (без падкладкі), потым — больш вузкімі, з «паднарадам». Сярод сялян і мяшчан значным попытам карысталіся асташы — шырокія і няёграбныя, але трывалыя вываратныя Б., што выраблялі ў г. Асташкаве Цвярской губ. і ў Смаргоні. На Палессі пластычнай выразнасцю і адметнай аздобай вылучаліся чобаты тураўскія, давыдгарадоцкія, тонежскія майстроў. Іх шылі з высокімі халявамі і зборкамі («з заборкамі») у месцы пераходу да ступні. У мужчынскіх чобатах халявы рабілі вышэй калена, іх загіналі, адвароты дэкарыравалі. Жаночыя шылі з карацейшымі і вузейшымі халявамі, больш высокім і тонкім абцасам; на задніку святочных чобатаў набіваліся медныя пласцінкі (навуглікі) і каляровыя кавалачкі скуры. Па спосабу крою да сярэдзіны 19 ст. бытавалі выключна выцяжкі з шырокімі адна- і двухшоўнымі халявамі. Для іх вырабу замочаную ў вадзе загатоўку халявы папярэдне выцягвалі на правіле (кручках) — спецыяльнай дошцы ў форме Б. У 2-й пал. 19 ст. ўвайшлі ў побыт насельніцтва Б.-прышвы — з прышыўнымі перадамі. Абодва тыпы крою, некалькі змяніўшыся, дайшлі да нашых дзён. У 1930—40-я г. былі пашыраны валеныя Б. (фабрычнага вырабу) з воўны белага колеру, з абцасамі, шырокімі адваротамі на халявах і прышыўнымі з карычневай скуры перадамі. У наш час патрэбнасць насельніцтва ў скураным абутку, у т. л. і Б., забяспечвае абутковая прамысловасць.

*Н. І. Буракоўская.*

**БОЎТ,** спецыяльны шост для загону рыбы ў сетку. Лакальныя назвы боўтка, шост, бурыла, аўрач, брахун. Каб павялічыць сілу гуку пры рэзкім апусканні

Б. ў ваду, на канцы шаста прымацоўвалі конусападобны драўляны або бляшаны наканечнік з выемкай, часам — металічныя кольца і гайкі на дроце.

**БО́ЧКА,** бандарны выраб; адна- ці двухдонная цыліндрычная пасудзіна розных памераў. Робіцца з акруглых выпуклых клёпак, больш шырокіх у сярэдняй частцы, што надае ёй пукатую форму. Клёпкі сціскаюцца металічнымі (раней і драўлянымі) абручамі. Функцыянальнае прызначэнне Б. рознае. Б. вялікіх памераў (на 50—60 вёдзер) выкарыстоўвалі для падвозу вады. Яны былі двухдонныя, з шырокай адтулінай пасярэдзіне у клёпках (у якую устаўлялася карытца з дзіркай), іх мацавалі ў гарызантальным становішчы на двух-колках. Б. выкарыстоўвалі на пажарных пастах: іх напаўнялі вадой і ставілі каля абшчыннага свірна пасярод вёскі. Б. пад збожжа (усыпішчы, судзіны) таксама былі вялікіх памераў (1,5×1 м). Часам яны не мелі дніпчаў і замацоўваліся стацыянарна на глінянай аснове ў свірне ці кладоўцы. Аднадонныя Б. сярэдніх памераў (на 20—30 вёдзер) выкарыстоўвалі пад квашаную капусту, буракі, бацвінне. Б. меншых памераў (бочачкі) — для мочаных садавіны, салёных грыбоў, агуркоў, квашанага шчаўя, бярозавага ці кляновага соку. Невялікія Б. (паўбочачкі) — *біклагі, барылкі* — былі часцей двухдоннымі і выкарыстоўваліся пад напіткі. У хатнім побыце сялян і гараджан асобныя віды Б. сустракаюцца ў наш час. Шырока выкарыстоўваюцца ў харчовай прамысловасці. *В. С. Цітоў.*

**БО́ЧКА ВІ́ЛЕНСКАЯ,** даўняя мера сыпкіх рэчываў на Беларусі і ў Літве. Паводле пастановы сейма Вял. кн. Літоўскага (1766) раўнялася 406,54 л, прыблізна адпавядала 19 пудам пшаніцы, 18 пудам жыта, 15 пудам ячменю, 10 пудам аўса. Пасля далучэння Беларусі да Расіі прыведзена ў суадносіны з рускімі мерамі, дзялілася на 4 чвэрці *(карцы)*, 8 асьмін, 16 шаснастак, 72 гарцы вялікія, 144 гарцы малыя (гл. *Гарнец*).

**БРАВЭ́РКА,** 1) старадаўні мужчынскі доўгі аднабортны пінжак з даматканага сукна. Пярэднія полкі рабілі цэльнымі з дзвюма прарэзнымі і дзвюма накладнымі кішэнямі, спінку — з падрэзной шырокай гесткай, са швом пад гесткай і хлясцікам. Каўнер і барты адкладныя, рукаў завужаны ўніз. У 19 — пач. 20 ст. была пашырана сярод заможных сялян, засцянковай шляхты. Пазней падобнае адзенне пад назвай «марынарка» бытавала ў сялян Зах. Беларусі. 2) Верхняя кароткая мужчынская вопратка звычайна з аўчын, абцягнутых даматканым сукном.

**БРА́ГІНСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ва Усходнім Палессі, пераважна ў паўднёва-ўсходніх раёнах Гомельшчыны. Яму ўласцівы разнастайнасць форм адзення (пры адначасовым бытаванні на пач. 20 ст. форм, што ўзніклі ў розныя гіст. перыяды), багацце арнаментальных кампазіцый, адметныя шыйныя ўпрыгожанні. У жаночым гарнітуры вылучаюцца 3 варыянты: кашуля, 4-полкавая панёва, фартух, намітка (сярпанка); кашуля, андарак, белы фартух, гарсэт (кабат), каптур з хусткай; кашуля або блуза, крамная спадніца з прышыўным ліфам (шнуроўка). Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па утку, з адносна вузкім рукавом, стаячым каўнярам. Арнамент натыкання і вышыўкі (чырвонымі, чорнымі і белымі баваўнянымі ніткамі) кампанаваўся ў палосы рознай шырыні на рукавах (звычайна ў папярочным кірунку), на плечавых устаўках, каўняры і падоле. З геаметрычных матываў пашыраны ромбы, 8-вугольныя зорачкі, зубчыкавыя паскі, з раслінных — дрэва жыцця (размяшчалася буйным аднарапортным узорам на ўсю даўжыню рукава), 8-пялёсткавыя кветкі (размяшчаліся ў шахматным парадку па ўсім рукаве), ружы, ягады каліны. Вышыўку фартухоў часта дапаўнялі нашыўкамі з каляровага саціну, карункамі. Андаракі гладкафарбаваныя, найчасцей чырвонамалінавыя або затканыя падоўжнымі бела-вохрыстымі палосамі ці вышытыя па нізе белымі, вохрыстымі, зялёнымі, сінімі, чорнымі ніткамі. Падпяразвалі вузкім дэкаратыўным поясам; андарак, які насілі з кашуляй, аздоблены ў падоле, падтыкалі пад пояс. Галаўныя ўборы жанчын: намітка, чапец (з цёмных, часта чырвоных крамных тканін, упрыгожаныя аплікацыяй, брыжамі, штапам), хусткі (даматканая белая з чырвонымі прокідкамі парцянька, суконная чорная з дэкаратыўнымі махрамі — апіатка, крамная страката-набіваная, якую не завязвалі, а выкладалі на галаве і грудзях). Насілі пацеркі, шыйныя абручыкі (кружкі, пляцёнкі, лучкі, лавачкі), вышытыя разнаколернымі бісерам. Мужчынскія кашулі былі тунікападобнага крою з багата вышытай манішкай. Нагавіцы шылі з палатна ў чорна-белыя палоскі (палатнянікі) або з шэрага ці карычневага сукна (суконнікі). Вопратку (світка, бурнос, бурка, кажух, казачына, лакальныя назвы таксама чуйка, сканцэрка) аздаблялі нашыўкамі і аблямоўкамі з фабрычнага сукна ці саціну, аплікацыяй шнурам, фалдаваннем (маршчэннем), выразамі, строчкай. *М. Ф. Раманюк.*

**БРАДА́Н,** традыцыйная рыбалоўная снасць, падобная на *волак;* сеткавы мяшок, прымацаваны да двух шастоў (дзедаў) і планкі (біла), якой рухома злучаліся паміж сабой канцы шастоў. Лакальная назва браданік. Ад мяшка адыходзілі 2 вяровачкі, якія сваім паторгваннем падавалі сігнал аб злоўленай рыбе. Б. лавілі рыбу ўдваіх з адной лодкі, плывучы па цячэнню ракі. Месцамі Б. выкарыстоўвалі для лоўлі рыбы ўброд. Былі распаўсюджаны на Палессі.

**БРАДНІ́К,** традыцыйная рыбалоўная снасць тыпу невада; тое, што і *брэдзень.*

**БРА́ЖКА,** б р а г а, даўні беларускі слабаалкагольны напітак. Рабілі з аржаного, ячменнага і інш. соладу з цукрам ці мёдам і хмелем.

**БРАЗГО́ТКІ,** б р а з г у н ы, б р а з г а ў к і, 1) агульная назва многіх народных самагучальных інструментаў: *шархуноў*, званкоў, талерачак (састаўных частак бубна), трашчоткі і ўласна Б. 2) Уласна Б. служыла дзіцячай цацкай, ужывалася як сігнальны інструмент у начным старажоўстве. Маюць выгляд: драўляны корпус прамавугольнай формы з ручкай. Унутры корпуса на прымацаванай да яго адным канцом нітцы нанізана жменя высушанага насення бабовых. На Беларусі пашыраны таксама ў выглядзе звычайнай скрыначкі з некалькімі каменьчыкамі або невялікімі шарыкамі ўнутры, замацаванымі пасярэдзіне свабодна нацягнутай ніткай. У наш час вядомы як ансамблевы рытмічна-каларыстычны інструмент. *І. Дз. Назіна.*



Брадан.



Боўт.

**БРА́ІМ** Іван Мікалаевіч (н. 15.7.1943, в. Славінск Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл.), беларускі сав. этнограф. Канд. гіст. навук (1973). Чл. КПСС з 1965. Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1968). З 1968 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1974 старшы навуковы супрацоўнік), з 1979 у Бел. ін-це нар.

гаспадаркі. Даследуе гісторыю рыбалоўнага промыслу на Беларусі, грамадскі побыт гарадскога насельніцтва БССР, сав. абраднасць. Аўтар манаграфіі «Рыбалоўства ў Беларусі» (1976), даследаванняў «Прамысловыя прылады і рамесныя вырабы як помнікі матэрыяльнай культуры» (1976), «З вопыту распрацоўкі і распаўсюджвання новай абраднасці ў Беларускай ССР» (1981);



**Брагінскі строй.** Жанчыны ў святочных касцюмах. Вёска Чыкалавічы Брагінскага раёна.

сааўтар кніг «Змены ў побыце і культуры гарадскога насельніцтва Беларусі» (1976), «Этнічныя працэсы і лад жыцця» (1980).

**БРА́МА,** галоўны ўезд на сядзібу. Аснову складаюць 2 дубовыя вушакі (да 3 м), злучаныя ўверсе накшталт літары «П» такім жа масіўным бервяном; пры наяўнасці *весніц* ставілі трэці вушак. На вушаках падвешвалі аднаабо двухстворкавыя *вароты* і весніцы. Вянчала Б. двухсхільная саламяная або драўляная стрэшка. Памеры, форма і дэкаратыўнае аздабленне Б. надзвычай разнастайныя. Платы і Б. арганізуюць сядзібу і яе асобныя часткі — падворак, агарод, сад, прыгуменне — у адзін самастойны структурна-планіровачны комплекс. У 19 ст. Б. была найбольш пашырана ў зоне бытавання вяночнага двара (Віцебская, Магілёўская, паўн.-ўсх. частка Гомельскай і часткова Мінскай абл.). У наш час сустракаецца на ўсёй Беларусі. *У. С. Гуркоў.*

**БРА́МКА,** кратаваныя дзверы для ўваходу з вуліцы ў двор ці са двара на агарод, у сад; тое, што і *весніцы*.

**БРАМЛЁЙ** Юліян Уладзіміравіч (н. 21.2.1921, Масква), савецкі этнограф і гісторык-славіст. Акад. АН СССР



(1976, чл.-кар. 1966), д-р гіст. навук (1965), праф. (1971). Чл. КПСС з 1944. Скончыў МГУ (1950). Дырэктар Ін-та этнаграфіі АН СССР (з 1966). Чл. выканкома (1970—80) і віцэ-прэзідэнт (з 1980) Міжнар. саюза антрапалагічных і этнагр. навук, чл. Бюро Адміністрацыйнага Савета (з 1968) і віцэ-прэзідэнт (з 1982) Міжнар. т-ва этналогіі і фальклору Еўропы. У галіне этнаграфіі даследуе тэорыю этнасу і этнічных працэсаў, сучасныя этнасацыяльныя працэсы ў СССР, гісторыю першабытнага грамадства, тэарэтычныя пытанні і сучасную праблематыку этнагр. навукі. Аўтар прац «Сучасныя праблемы этнаграфіі» (1981), «Нарысы тэорыі этнасу» (1983), «Тэарэтычная этнаграфія» (1984, на англ. мове) і інш. Пры вывучэнні пытанняў сучасных этнасацыяльных працэсаў і гісторыяграфіі сав. этнаграфіі выкарыстоўвае працы па бел. этнаграфіі.

**БРА́НАЕ ТКА́ЦТВА,** від народнага *ткацтва*. Лакальныя назвы перабіранне, пераборы, набіранне на дошку, няратканне. Узнікла з вынаходствам ткацкага стана гарызантальнага тыпу (на Беларусі вядомы з 13 ст.). Узоры браных тканін выконваліся пры дапамозе спецыяльнай дошчачкі-бральніцы. Вядомы дзве разнавіднасці Б. т.: аднауточнае (дазваляе атрымліваць паўажурныя і фактурныя тканіны, што выкарыстоўвалі для вырабу аднатонных ільняных, пазней — баваўняных абрусаў, ручнікоў, полагаў) і двухуточнае



**Бразготка.**



**Брама.** Вёска Прудзішча Смалявіцкага раёна.

(больш выразнае, адно з самых распаўсюджаных на Беларусі ў канцы 19 — пач. 20 ст.), якое шырока ўжывалася для ўпрыгожвання нар. адзення, ручнікоў, абрусаў. У працэсе вырабу гэтых тканін узорны ўток насцілаецца ў адпаведным парадку па полю, якое ўтвараецца перапляценнем ніцей асновы і фонавага ўтку. Арнамент бел. браных двухуточных тканін вызначаецца перавагай чырвонага колеру, дакладнай распрацоўкай геаметрычных матываў. *М. М. Віннікава.*

**«БРА́НЮШКА»,** традыцыйны танец. Разнавіднасць «Круцелькі». Музычны памер $^2/_4$. Выконваецца з прыпеўкай. Зафіксаваны на Слонімшчыне М. Федароўскім.

**БРАТ,** кожны з сыноў у адносінах да другіх дзяцей гэтых бацькоў.

**БРА́ТАВАЯ,** б р а ц і х а, жонка брата.

**БРА́ТЧЫНА,** 1) грамадская трапеза членаў праваслаўных *брацтваў*, якія існавалі на Беларусі ў 16—18 ст. Наладжвалася ў складчыну членамі брацтва (братчыкамі) у асобныя святочныя дні. 2) Калектыўнае частаванне ў складчыну ў час святкавання сялянамі грамадскай свечкі, якую рабілі з воску, сабранага ўсімі абшчыннікамі. Свечку ставілі ў кадушку, напоўненую жытам, спявалі песні з пажаданнем добрага ўраджаю, дастатку ў гаспадарцы. Пад уплывам хрысціянства Б. прымеркавалі да дня зімовага Міколы (6 снежня с. ст.), які нібыта садзейнічаў добраму ўраджаю. Частаванне, як і само свята, мела абшчынны характар. У бел. вёсцы бытавала да канца 19 ст. *М. Ф. Піліпенка.*

**БРАЦЕ́НІК,** дваюрадны брат, часам родны брат.

**БРА́ЦІНА,** посуд пад напіткі, што выкарыстоўваўся на святочных застоллях, складчынах ці *братчынах* (адсюль і назва). Мела шарападобную ці пукатую форму; сярэднія памеры 5—8 л. Рабілі Б. звычайна з медзі або з дрэва. У асяроддзі вышэйшай знаці вядомы Б. сярэбраныя і залатыя, інкруставаныя самацветамі. Часам у камплекце з Б. быў набор аналагічных пасудзін малых памераў (брацінак), што выкарыстоўвалі як кубкі для піцця.

**БРАЦІ́ХА,** жонка роднага брата; тое, што і *братавая*.

**БРА́ЦТВЫ,** нацыянальна-рэлігійныя арганізацыі беларускага і ўкраінскага праваслаўнага насельніцтва ў канцы 16—18 ст. Буйныя бел. Б. існавалі ў Вільні, Магілёве, Брэсце, Слуцку, Мінску, Пінску, Барысаве, Оршы, Полацку, Мсціславе і інш. Яны ўзнікалі пры цэрквах і аб'ядноўвалі рамеснікаў, гандляроў, прадстаўнікоў духавенства, часткова шляхты. Нерухомая маёмасць Б. (дамы, зямельныя ўчасткі) стваралася за кошт укладаў, ахвяраванняў, завяшчанняў, уступных і штогадовых узносаў, а таксама ў выніку іх прадпрымальніцкай дзейнасці (гандаль друкаванымі кнігамі, фінансавыя аперацыі і інш.). Вышэйшымі органамі самакіравання Б. былі сходкі, штодзённымі справамі кіравалі старасты, шпітальныя дазорныя, будаўнікі храмаў. Б. займаліся рэлігійнай і дабрачыннай дзейнасцю: будавалі цэрквы, дамы прытулку («шпіталі»), памагалі збяднелым братчыкам, арганізоўвалі публічныя святкаванні.

Б. вялі актыўную барацьбу супраць каталіцкай экспансіі, царкоўнай уніі ў Рэчы Паспалітай. Яны садзейнічалі фарміраванню шырокай паліт. апазіцыі, якую складалі большая частка мяшчанства, сялянства, пэўныя слаі казацтва, духавенства, шляхты, удзельнічалі ў Віцебскім паўстанні 1623, антыуніяцкіх выступленнях гарадскіх нізоў у Мінску, Магілёве, Полацку і інш. Б. абаранялі культуру і мову бел. і ўкр. народаў, традыцыі ўсх.-слав. агульнасці, адыгралі вялікую ролю ў развіцці многіх сфер культуры, у рэформе і секулярызацыі школьнай сістэмы асветы, у пашырэнні бел. і ўкр. кнігадрукавання. Уплыў Б. на фарміраванне нацыянальнай і метаэтнічнай усх.-слав. самасвядомасці бел. і ўкр. народаў аб'ектыўна служыў зліццю антыфеадальнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў «рускіх» землях Вял. кн. Літоўскага і Польшчы. Большасць дзеячаў бел. і ўкр. культуры, літаратуры, пісьменнасці канца 16 — 1-й пал. 17 ст. (Л. і С. Зізаніі, М. Смотрыцкі, Л. Карповіч, А. Мужылоўскі, Ф. і І. Іяўлевічы, С. Собаль, І. Труцэвіч і інш.) былі членамі Б. Абвастрэнне ўнутраных супярэчнасцей Б., абумоўленае іх сацыяльнай неаднароднасцю, пераход у каталіцтва або уніяцтва значнай часткі феадалаў, паражэнне вызваленчай вайны бел. народа 1648—51, рост класавай барацьбы істотна падарвалі пазіцыі Б. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ў канцы 18 ст. яны страцілі сваё грамадска-паліт. і культурнае значэнне. На Беларусі і Украіне існавалі таксама каталіцкія і уніяцкія Б. *Г. Я. Галенчанка.*





**Бранае ткацтва.**

Утварэнне ўзору браных тканін пры дапамозе дошчачкі-бральніцы.

**БРО́ВАР,** в і н а к у р н я, традыцыйная вытворчая пабудова, дзе варылі піва, гналі гарэлку. На Беларусі вядомы з 16 ст. ў замках, сядзібах, пры корчмах. Звычайна Б. размяшчалі каля рэк ці сажалак, у асобных выпадках — у дварах. Будавалі пераважна драўляныя, пазней мураваныя. Часта ў Б. увaходзілі саладоўня з сушыльняй, варыўня, лазня, жыллё.

**БРУК** Саламон Ільіч (н. 1.7.1920, г. Рагачоў), рускі савецкі этнограф. Чл.-кар. АН СССР (1987), д-р геагр. навук (1965), праф. (1971). Засл. дзеяч навукі РСФСР (1980). Чл. КПСС з 1946. Скончыў Маскоўскі ун-т (1947). З 1956 у Ін-це этнаграфіі АН СССР, з 1960 заг. лабараторыі этнічнай статыстыкі і картаграфіі, з 1963 нам. дырэктара ін-та. Асноўныя працы прысвечаны этнічнай геаграфіі і краіназнаўству. Заснавальнік этнічнай картаграфіі і этнічнай дэмаграфіі. Распрацаваў тэарэтычныя прынцыпы, метады і спосабы этнічнага картаграфавання. Асноўныя ідэі і метадычныя прынцыпы рэалізаваны ў працы «Атлас народаў свету» (1964, рэдактар і аўтар тэксту, табліц і 20 карт), у рэгіянальных атласах па матэрыяльнай культуры рускіх і прыбалтыйскіх народаў. У працах «Колькасць і рассяленне народаў свету» (1962, рэдактар і адзін з аўтараў гл. 1—3, 6; прэмія імя Міклуха-Маклая), «Насельніцтва свету: Этнадэмаграфічны даведнік» (1981, 2 выд., 1986) і інш. прааналізаваны звесткі пра колькасць, нацыянальны, лінгвістычны, рэлігійны склад, узроставую, палавую і расавую структуру насельніцтва Зямлі, абгрунтаваны прагнозы і тэндэнцыі яго развіцця. У працах Б. змешчаны таксама параўнаўчы матэрыял па гісторыка-культурным вывучэнні розных народаў, у т. л. беларусаў, на сусветным фоне. Дзярж. прэмія СССР 1987.

*Тв.:* Население земного шара. М., 1965 (у сааўт.); Страны и народы: Земля и человечество: Общий обзор. М., 1978 (у сааўт.); Проблемы этнической географии и картографии. М., 1978 (у сааўт.).

*В. С. Цітоў.*

**БРУ́КНЕР** (Brückner) Аляксандр (29.1.1856, Цярнопаль, УССР —

24.5.1939), польскі філолаг-славіст, гісторык культуры. Чл. Пецярбургскай АН (1890). Вучыўся ў Львоўскім, Венскім, Лейпцыгскім і Берлінскім ун-тах. У 1881—1924 прафесар слав. моў і літаратур Берлінскага ун-та. У працы «З беларускай нівы» (Кракаў, 1918) разглядаў гісторыю бел. культуры і літаратуры, сцвярджаў выключную ролю бел. мовы ў Вял. кн. Літоўскім, паказаў сутнасць тэрмінаў «літвін», «літоўскасць» у адносінах да Беларусі, даказваў неабходнасць адрозніваць Літву гіст. ад Літвы этнагр., сучаснай. У гэтай працы і ў даследаванні «Нарыс гісторыі славянскіх літаратур і літаратурных моў» (з Т. Лер-Сплавінскім, Львоў, 1929) аналізаваў творчасць Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, З. Бядулі, К. Буйло. Высока цаніў творчасць А. Міцкевіча, вылучаў у ёй бел. элементы і называў паэму «Пан Тадэвуш» беларускай. Аўтар прац «Сярэдневяковая лацінская паэзія ў Польшчы» (1892—94), «Польскія іншаверцы» (1905), «Нарыс гісторыі польскай літаратуры» (т. 1—2, 1903), «Гісторыя польскай культуры» (т. 1—4, 1930—46), «Старажытнапольская энцыклапедыя» (т. 1—2, 1939), артыкулаў «Польска-рускія інтэрмедыі XVII ст.» (1891), «Польска-рускія песні» (1911), «Фр. Скарына» (1927), дзе многа звестак па бел. культуры.

*Г. А. Каханоўскі, А. І. Мальдзіс.*



Брусочкі.

**БРУНДУ́К,** металічны трос для звязання звёнаў плыта на Палессі.

**БРУС,** 1) бервяно, апілаванае або ачасанае з чатырох бакоў. 2) Тое, што і *брусок*.

**БРУСКІ́,** мучная страва накшталт *кісялю*. У падсолены кіпень засыпалі бабовую або гарохавую муку, заскварвалі салам з цыбуляй або дабаўлялі тлушч. Перамешвалі, гарачым разлівалі ў неглыбокія міскі і ставілі ў халоднае месца, каб загусцела. Перад падачай на стол рэзалі на кавалкі. Калі гатавалі страву поснай, дабаўлялі папярэдне замочаныя і нарэзаныя сушаныя яблыкі і грушы. Страва была пашырана на Магілёўшчыне і Віцебшчыне.

**БРУСНІ́ЦЫ НАСТО́ЕНЫЯ,** настой з брусніц. Ягады залiваюць гатаванай астуджанай вадой, часам дабаўляюць цукар або мёд. Посуд з ягадамі накрываюць палатном і ставяць у цёмнае халоднае месца. Б. н. вядомы па ўсёй Беларусі.

**БРУСО́К,** тачыльны, шліфавальны камень, звычайна ў форме плоскага прадаўгаватага чатырохгранніка.

**БРУСО́ЧКІ,** народны музычны ударны інструмент з групы самагучальных — праобраз ксілафона. Лакальныя назвы цымбалкі, смалінкі. Складаецца з сасновых брусочкаў (10 і болей) аднолькавай таўшчыні, але рознай даўжыні, якія ўкладваюць паралельна на 2 пучках жытняй саломы, моцна перавязаных у некалькіх месцах. Ударамі маленькіх драўляных малаточкаў здабываюцца моцныя, але мяккія, прыемнага тэмбру гукі рознай вышыні. Б. бытавалі ў раёнах Гомельскага Палесся і на Магілёўшчыне. Зараз не сустракаюцца.

*І. Дз.Назіна.*



Брында.

Брацiна. 18 ст.

**БРЫ́ГАЎКІ,** рулявыя вёслы на пярэднім і заднім звёнах плыта на Зах. Дзвіне.

**БРЫЛЬ,** капялюш, мужчынскі галаўны ўбор беларусаў. Рабілі Б. плецeныя (з саломы, мятліцы, лазы, чароту), якія насілі летам, і валеныя, лямцавыя, якія насілі ў любую пару года. Палі плеценага Б. прамыя (шыр. 4—10 см), верх у выглядзе ўсечанага цыліндра (выш. 8—10 см). Разнастайнасцю прыёмаў пляцення, тонкасцю паверхневай структуры вызначаюцца саламяныя Б., якія плялі звычайна са сцяблоў жыта (у зубчыкі ці прама) і прашывалі суравымі ніткамі ці конскім воласам. Святочныя Б. паверх палёў абвязвалі каляровай тасьмой (шыр. 2—3 см) або ўпрыгожвалі штучнымі (з разнаколернай паперы, тканіны) ці жывымі кветкамі. На Віцебшчыне і Палессі вакол верху мацавалі ажурна выплеценую з конскага воласу чорную тасьму, часам з кутасамі, якія спадалі ззаду. Формай і памерамі валеныя, лямцавыя Б. блізкія да саламяных, але лініі пераходу ў іх больш мяккія і пластычныя, а аздабленне больш сціплае. Б. былі пашыраны па ўсёй Беларусі. У наш час трапляюцца на Палессі і Панямонні.

*М. Ф. Раманюк.*



**Брылі,** плецeныя з мятліцы. Цэнтральная Беларусь.

Лямцавы **брыль.** Падзвінне.

Саламяны **брыль.** Заходняе Палессе.

**БРЫ́НДА,** прылада для рыхлення воўны: палка даўжынёй каля 70 см, на якую нацягвалі струну з авечай кішкі. Лакальная назва струна. Воўну клалі на рашотку з лучыны, падвешаную над Б., па струне білі драўляным або жалезным байком, яна хісталася і разрыхляла воўну. Была пашырана ў мясцовасцях, суседніх з Расіяй.

**БРЫ́НЗА,** б р ы н д з а, загатаваны ў запас тварог. У пост, калі малочныя прадукты не спажываліся, добра выціснуты (вычаўлены) тварог або сыр перамешвалі з соллю (у халодную пару года без солі), складалі (стоўпвалі) у дзежкі або бочачкі, залівалі або закладалі сметанковым маслам. Б. доўга захоўвалася ў халодным месцы. Елі яе падагрэтай ці халоднай. Была найбольш пашырана ў Цэнтр. і Усх. Палессі.

**БРЫ́ЧКА,** к а л ы м а ж к а, т а р а н т а с, выязны чатырохколавы экіпаж для коннай запрэжкі, прыстасаваны для камфортнай пасажырскай язды. Складалася з колавай асновы і кузава (на рысорах або без іх). Мела разнастайную форму, розная велічыні пярэдняя і задняя колы з бакавымі шчыткамі (закрылінь) па-над імі. Кузаў быў звычайна адкрытым, рапотчатым ці суцэльным, больш нізкім у сярэдняй частцы з падножкамі для пасадкі, з пляцоўкай для вазніцы (козлы), сядзеннем і спінкай, аздобленай размалёўкай ці прапілаванай (радзей рэльефнай) разьбой. Б. з'явілася ў Зах. Еўропе ў 17 ст., яе спрошчаныя варыянты вядомы і раней. На Беларусі пашырылася ў сярэдзіне 19 ст., ёю карысталася пераважна шляхта і заможныя сяляне; была характэрным атрыбутам вясельнай абраднасці. З шырокага ўжытку выйшла ў 1930—40-я г. *В. С. Цітоў.*

**БРЭ́ДЗЕНЬ,** б р а д н і к, традыцыйная рыбалоўная снасць тыпу невада; конусападобны сеткавы мяшок (камера, матня) з двума сеткавымі крыламі, прымацаванымі да дзвюх палак (клячнікаў). Лакальныя назвы брадаік, валачок. Шырыня захопу разам з крыламі 6—12 м, вышыня каля 1,5 м. Распаўсюджаны на тэр. усёй Беларусі. На Магілёўшчыне выкарыстоўвалі Б. з планкамі (цапкамі) у крылах, на Палессі — Б. без кармы, а таксама Б., зробленыя з рэдкавытканай тканіны. Лавілі Б. уброд 2 чалавекі. Працягнуўшы яго ў вадзе, выцягвалі на бераг для праверкі улову. *І. М. Браім.*

**БРЭН** Келясцін Іванавіч (1800, Брэстчына — 17.3.1875), беларускі краязнавец, збіральнік фальклору. Скончыў Брэсцкае шасцікласнае вучылішча. У канцы 1820-х г. вучыўся і працаваў пісьмаводам у Жыровіцкай семінарыі. З 1831 свяшчэннік у Кобрыне, з 1838 настаяцель царквы ў в. Стары Корнін Бельскага пав. Гродзенскай губ. Аўтар працы «Мясцовае этнаграфічнае апісанне Бельскага павета Гродзенскай губерні...» (нап. 1856), у якой адлюстравана матэрыяльная і духоўная культура беларускага насельніцтва на тэрыторыі Падляшша. Складаецца з 6 раздзелаў: «Вонкавы выгляд», «Мова», «Хатні побыт», «Асаблівасці грамадскага быту», «Разумовыя здольнасці, маральныя якасці і адукацыя», «Народныя паданні і помнікі». У працы 38 песень (з іх 14 вясельных), 24 загадкі, 15 прымавак, 2 казкі. Вясельныя песніададзены адпаведна апісанню вясельных абрадаў, іншы фальклорны матэрыял змешчаны ў дадатку. Ёсць малюнкі адзення, рыбалоўных прылад, жылых і гаспадарчых пабудоў і іх планы. Аўтар параўноўвае штодзённы побыт беларусаў і мазураў, вылучае адметнае і аднолькавае ў іх культуры. Рукапіс захоўваецца ў архіве Геагр. т-ва СССР у Ленінградзе.

*Літ.:* Л о б а ч М. Па слядах рукапіснага этнаграфічнага апісання Бельскага павета свяшчэнніка Келясціна Брэна з 50-х гадоў XIX стагоддзя // Studia polsko-litewsko-białoruskie. Warszawa, 1988. *М. С. Лобач.*

**БРЭ́СЦКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1940, адкрыты 22.6.1957. Мае 11 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 873 $м^2$), каля 120 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: прыроды, гісторыі дасав. і сав. перыядаў. У музеі захоўваюцца матэрыялы з археалагічных раскопак Берасцейскага гарадзішча, нумізматычная калекцыя, зброя і даспехі 13—19 ст., гербы і план Брэста 18 ст., памятная бронзавая дошка і шкатулка з манетамі, закладзеныя пры заснаванні Брэсцкай крэпасці, дакументы пра рэвалюцыйны рух на Брэстчыне ў канцы 19 — пач. 20 ст., Кастрычніцкую рэвалюцыю, Грамадзянскую вайну, пра барацьбу працоўных Зах. Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, уз'яднанне з БССР, паказаны абарона Брэсцкай крэпасці ў Вял. Айч. вайну, партызанскі і падпольны рух на тэрыторыі вобласці, вызваленне краю ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пасляваеннае аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры. У экспазіцыі агучаныя дыярамы «Абарона Брэсцкай крэпасці», «Белавежская пушча», «Палессе». Сярод экспанатаў калекцыя прадметаў (каля 2 тыс. экз.) матэрыяльнай і духоўнай культуры Брэстчыны 18 — пач. 20 ст. Дэманструюцца музычныя інструменты 18 ст. (цытра, музычная шкатулка), абразы, узоры прыкладнога мастацтва, прылады працы (саха палеская, барана-сукаватка, жорны, ручныя і нажныя ступы, ганчарныя кругі, матыкі, сярпы, косы, лапцугі, стругі і інш.), нар. адзенне (латушкі, кажухі, кашулі, андаракі, сарочкі, фартухі, кабаты, паясы, чапцы, хусткі, намiткі, вянкі, лапці лыкавыя і скураныя, пасталы, чаравікі і інш.), ручнікі, посцілкі, абрусы, ганчарныя вырабы (чорна-глянцавая кераміка А. Такараўскага і М. Віркевіча з Пружан, паліваная кераміка І. Лісоўскага, У. Сухоцкага, З. Жылінскага з г. п. Ружаны Пружанскага р-на і Ф. Шэлеста з в. Гарадная Столінскага р-на). Філіялы: Археалагічны музей «Бярэсце» (г. Брэст), Музей атэізму (в. Гершоны Брэсцкага р-на), Музей партызанскай славы (урочышча Хаваншчына, каля в. Корачын Івацэвіцкага р-на). Аддзелы: Камянецкая вежа, музей «Космас» (Брэст). Пры музеі дзейнічае краязнаўчы клуб «Радзіма», Музей размешчаны ў былым кафедральным касцёле (пабудаваны ў 1856) — помніку архітэктуры позняга класіцызму. *П. С. Шылін.*

**БУ́БЕН,** беларускі народны мембранны музычны інструмент. Лакальная назва ручны барабан. Драўляны (часам металічны) абруч («бячайка», «рэшата»), абцягнуты з аднаго боку скурай (сабакі, цяляці, казляняці); у падоўжныя прорэзі абруча ўстаўлены штыфты з парамі рухомых круглых бляшак («талерачак», «ляскотак»); пад скурай накрыж падвязаны бразготкі (званочкі, шархуны). Гук узнікае пры патрэсванні Б., ударах па мембране пальцамі, далонню, кулаком або драўлянай калатушкай, вібрыруючым трэнні вялікім пальцам па скуры. Гучанне Б. вызначаецца разнастайнасцю гукавых, тэмбравых і дынамічных адценняў.



Бубен. Вёска Забалоцце Глыбоцкага раёна. 1928 г.

Назва «Б.» сустракаецца ў гіст. дакументах 11 ст. ў сувязі з ваеннымі падзеямі ці выступленнямі скамарохаў, але дакладна невядома, які менавіта інструмент (уласна Б., *барабан* або *літаўры*) яна абазначала. Сведчаннем таго, што Б. вядомы на Беларусі ў 15 ст., даследчыкі лічаць выяву скамароха з Б. на фрэсцы касцёла св. Тройцы ў Любліне работы «рускіх майстроў» (майстроў з Вял. кн. Літоўскага). У сучасным сялянскім побыце выкарыстоўваецца як ансамблевы рытмічна-каларыстычны інструмент пры выкананні танцаў і вясельных маршаў. Пашырана на ўсёй Беларусі. *І. Дз. Назіна.*

**БУ́ДА,** 1) прадпрыемства са спецыяльна абсталяванай печчу для смалакурэння, гонкі дзёгцю, выпальвання драўнянага вугалю, вытворчасці паташу. Былі распаўсюджаны ў 15 — сярэдзіне 19 ст., гал. чынам у лясістай усх. і паўдн.

частках Беларусі (Падняпроўе і Палессе). Належалі буйным землеўладальнікам і лесапрамыслоўцам, якія выкарыстоўвалі працу прыгонных сялян, а пазней наёмных рабочых. Асноўнымі катэгорыямі рабочых на Б. былі *буднікі* — клёпачнікі, карытнікі, палівачы і інш.; абслугоўваючы персанал — конюхі, кавалі, бондары, цагельнікі і інш., адміністрацыйны апарат — атаман, пісар, казначэй (шафар) і наглядчык (дазорца). На тэрыторыі Б. знаходзіліся вытворчы ўчастак, склады для сыравіны і гатовай прадукцыі, памяшканні для адміністрацыі і абслугоўваючага персаналу. З сярэдзіны 19 ст. ў сувязі са скарачэннем сыравіннай базы і паніжэннем попыту на прадукцыю Б. паступова пачалі знікаць. 2) Лясны пасёлак, у якім жылі буднікі. У 2-й пал. 19 ст. такія пасёлкі ператварыліся ў звычайныя вёскі, за якімі захавалася назва Б. Гл. таксама *Паташня. Н. І. Буракоўская.*





**Буда-Кашалёўскі строй.** Жанчыны ў святочных касцюмах. Вёскі Чабатовічы і Рудня-Альхоўка Буда-Кашалёўскага раёна.

**БУ́ДА-КАШАЛЁЎСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення па Падняпроўі, пераважна ў Буда-Кашалёўскім, Гомельскім, Рэчыцкім р-нах. Для яго характэрны разнастайнасць прыёмаў вышыўкі і стрыманасць каларыту. Асноўныя часткі жаночага гарнітуру: кашуля з прамымі плечавымі ўстаўкамі, адкладным каўняром і шырокімі рукавамі, спадніца (цёмна-чырвоны з чорнай клеткай андарак ці палатнянік), белы льняны фартух з фальбонай унізе, доўгі са складкамі на спіне чорны ці цёмна-сіні гарсэт (шнуроўка), пояс з кутасамі, завязаны ззаду. Галаўныя ўборы жанчын: наміткa, чапец з кужалю ці паркалю, даматканая ці крамная хустка, завязаная «на ўрожкі». Шыйныя і нагрудныя ўпрыгожанні — каралі, стужкі, крыжыкі і інш. У мужчынскі гарнітур уваходзілі: тунікападобная кашуля з адкладным ці стаячым каўняром, прамымі (калошкай) ці сабранымі ў каўнерац рукавамі, ільняныя ці суконныя нагавіцы, узорыста-тканы з вялікай гронкай кутасоў пояс. Галаўныя ўборы мужчын, жаночая і мужчынская вопратка істотных мясцовых адрозненняў ад агульнанацыянальных відаў і форм не маюць. Адзенне аздаблялі вышыўкай, якой уласцівы ахраматычнасць і геаметрычная дакладнасць старадаўніх матываў. Аднаколерная вышыўка чорнымі ці белымі бавоўнянымі ніткамі вызначаецца ювелірнай распрацоўкай рамбічнага арнаменту. Двухбаковая падліковая гладзь спалучаецца з гафтам (сакаленнем), мярэжкай, карункамі і абляможкай, а таксама арыгінальным і характэрным для гэтага строю прыёмам аздаблення — маршчэннем (збіранне палатна чорнай ці белай ніткай у дробныя гафрыраваныя складачкі), якім утвараюцца рэльефныя ўзорыстыя паскі на версе і нізе рукавоў кашулі.
*М. Ф. Раманюк.*

**БУ́ДА-КАШАЛЁЎСКІЯ РУЧНІКІ́,** традыцыйныя тканыя ручнікі, што вырабляюць народныя майстры вёсак Буда-Кашалёўскага, Гомельскага, Рэчыцкага р-наў. Вядомы з сярэдзіны 19 ст. Даўж. 130—360 см, шыр. 27—31 см. Ткуць з адбеленага кужалю або белай бавоўны (белька) палатняным перапляценнем. Аздабляюць на канцах узорыстым натыканнем (пераборамі) бавоўнянымі ніткамі (горынь, забалач), а таксама белымі карункамі, мохрыкамі, устаўкамі і нашыўкамі з чырвонага паркалю. У арнаментыцы пераважаюць геаметрычныя ўзоры (ромбы, зоркі-пальметкі, крыжыкі, вузкія паскі). Сустракаюцца і ручнікі, вышытыя заамарфнымі матывамі. Арнамент раўнамерна-шчыльны, без кампазіцыйных акцэнтаў, кампануецца ў клетачках, утвораных прама ці коса размешчанымі палосамі. Пераважаюць чорны, чырвоны або чорна-чырвоны колеры. Пераход узорыстай часткі канцоў да гладкага белага цэнтра досыць рэзкі. Уласцівыя ім узорыстасць, графічна-выразны арнамент складанага малюнку назіраюцца і ў афармленні нар. адзення, розных відаў мастацкіх тканін гэтай этнагр. зоны.
*М. Ф. Раманюк.*

**БУДА́Н,** часовая пабудова на лясных работах, паляўнічтве, сенакосе, рыбнай лоўлі, у садзе, на плыце і інш. для адпачынку, захавання прадуктаў харчавання і адзення; тое, што і *будка.*

**БУДАЎНІ́ЦТВА «НА СО́ХАХ»,** старадаўняя будаўнічая сістэма, у аснове якой выкарыстанне сох — вертыкальна ўкапаных у зямлю натуральных ці раздвоеных уверсе дрэў; тое, што і *сошныя канструкцыі.*

**БУДЗІ́НЫ,** плямя, якое ўпамінаецца пры апісанні зямель і народаў Усх. Еўропы ў 4-й кн. «Гісторыі» стараж.-грэчаскага гісторыка Герадота (5 ст. да

н. э.). Паводле Герадота, Б.— вялікае вандроўнае племя з светла-блакітнымі вачамі і рыжымі валасамі, што жыло сярод лясоў, больш за 15 дзён шляху ад Меацийскага возера (Азоўскага мора). Яго мова адрознівалася ад скіфскай і элінскай. На думку некаторых даследчыкаў (П. Шафарык, З. Даленга-Ходакоўскі і інш.), Б. жылі ў Падняпроўі на тэр. Беларусі, дзе часта сустракаюцца назвы з коранем «буда-» (тыпу Жгунская Буда). Пацверджанне сваёй думкі яны бачылі ў інш. герадотаўскіх апісаннях: Б. займаліся паляваннем, на іх землях знаходзіўся горад, жыллёвыя пабудовы і свяцілішчы якога былі зроблены з дрэва, і г. д. Да гэтых меркаванняў крытычна ставіліся Р. Зянькевіч, В. Завітневіч, Я. Карскі і інш. даследчыкі. Яны лічылі, што Б. не прымалі ўдзел у этнагенезе славян, у т. л. беларусаў, а назвы з коранем «буда-» больш позняга паходжання і звязаны са спецыяльнымі пабудовамі для тэрмічнай апрацоўкі драўніны — *будамі*. *І. У. Чаквін.*



**Буда-Кашалёўскія ручнікі.** Ручнік. Вёска Грабаўка Гомельскага раёна. 1890-я г.

**БУ́ДКА,** буда н, шалаш на плыце і інш. для адпачынку, захавання прадуктаў харчавання і адзення. На сплаве Б. будавалі звычайна на другім звяне плыта, на вялікіх плытах — 2—3 Б. Козлы дажж. 2—3 м, шыр. і выш. 1,5—2 м з трох бакоў абкладвалі жэрдкамі, галінкамі, саломай, чаротам (адкрыты тарцовы бок служыў уваходам). На Дняпры на караванах плытоў Б. рабілі з шалёўкі.

**БУ́ДНІКІ,** прыгонныя сяляне або вольнанаёмныя рабочыя, якія працавалі на *будах*: гналі смалу, дзёгаць, выпальвалі драўняны вугаль, выварвалі паташ, выраблялі клёпкі для патрэб саміх будаў і бандарнай вытворчасці. Жылі Б. ў лясных пасёлках (будах) або бліжэйшых вёсках.

**БУЖА́НЕ,** назва групы ўсходніх славян, якія ў 6—9 ст. насялялі басейн Зах. Буга. Іх пaўд. суседзямі былі *валыняне*, зах.— мазаўшане. Жылі асела, займаліся земляробствам, бортніцтвам, рамёствамі. Упамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў». На думку славацкага гісторыка П. Шафарыка, у 5 ст. да н. э. яны называліся будзінамі, у першыя вякі н. э. — сербамі (беласербамі). Паводле звестак географа Баварскага (канец 9 ст.), Б. мелі 231 горад (замак). На думку некаторых даследчыкаў, Б. і валыняне раней называліся *дулебамі*. З 10 ст. ў складзе Кіеўскай Русі. З 12 ст. жыхароў зямель Пабужжа называлі па галоўных гарадах княстваў: берасцейцы, драгічынцы і інш. З 13 ст. пашырылася новая назва гэтых зямель — Падляшша. У літаратуры 19 ст. Б. часта атаясамліваюць з валынянамі, *палешукамі*. *І. А. Юхо.*



Ручнік. Гарадскі пасёлак Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна. 1930-я г.

**БУКЕ́ТНІК,** гліняная пасудзіна для кветак. Лакальная назва кветнік. Рабілі Б. разнастайныя па абрысах і памерах, выцягнутыя па форме, з двума вушкамі па баках (упрыгожвалі завіткамі на канцах або спіральна закручвалі). Б. аздаблялі арнаментам, пакрывалі палівай. Вядомы на ўсёй Беларусі.

**БУ́ЛА,** беларуская народная гульня. Гуляюць дзве каманды. Кожная выбірае вядучага. Ён моцна б'е палкай з загнутым канцом па буле (драўляным шары) і гоніць яе па зямлі ў бок праціўніка, каманда памагае яму. Праціўнікі стараюцца перахапіць і вярнуць булу да ўмоўленай мяжы.

**БУЛГА́К** Ян (6.10.1876, в. Асташына Навагрудскага р-на — 4. 2. 1950), беларускі і польскі этнограф, фалькларыст, майстар мастацкай краязнаўчай фатаграфіі. Да 1912 жыў у в. Перасека Мінскага пав. У 1919—39 кіраўнік лабараторыі мастацкай фатаграфіі пры Віленскім ун-це. Заснавальнік і старшыня фотаклуба Польшчы, Віленскага фотаклуба, саюза польскіх мастакоў-фатографаў, польскага фатаграфічнага т-ва. Апублікаваў шмат здымкаў бел. краявідаў, вёсак, гаспадарчых пабудоў бел. сялян у розных этнагр. выданнях і ў час. «Ziemia» («Зямля»), «Kwartalnik Litewski» («Літоўскі квартальнік»), «Wieś ilustrowana» («Ілюстраваная вёска») і інш. Найбольш вядомыя фота: «Беларус з-пад Клецка», «Бабулька-беларуска з маёнтка Перасека пад Мінскам», «Жабракі беларусы пад Мінскам», «Беларуска з-пад Клецка ў народным строі з самаробнага сукна», «Беларуская дзяўчына з-пад Клецка ў народным убранні». Аўтар артыкулаў пра бел. фальклор і краязнаўства: «Экскурсія на Свіцязь» (1910), «Велікодныя песні на Міншчыне (валачобнікі)» (1911) і інш.; прац пра мастака Ф. Рушчыца (у кн. Фердынанд Рушчыц. Вільня, 1939). Аўтар даследаванняў і падручнікаў па эстэтыцы і тэхніцы фатаграфіі («Фатаграфіка», 1931), краязнаўству, мастацтву. Фотатэка і калекцыя яго здымкаў (каля 10 тыс.) згарэла ў 1944. Многія яго фатаграфіі з бел. зямель зберагаюцца ў Цэнтр. дзярж. гіст. архіве Літ. ССР і Цэнтр. бібліятэцы Літ. ССР у Вільнюсе. *І. У. Саламевіч.*

**БУЛГАКО́ЎСКІ** Дзмітрый Гаўрылавіч [1845—1918 (?)], беларускі этнограф, фалькларыст, краязнавец. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1869). У 1902 зляжыў з сябе духоўны сан і працаваў настаўнікам рускай і царкоўнаслав. моў у Ваўкавыску. У 1911 — 12 рэдактар-выдавец час. «Всероссийский вестник трезвости» (Спб.). Друкаваў артыкулы па гісторыі і культуры беларусаў, фальклорна-этнагр. творы ў газетах «Новое время», «Санкт-Петербургские губернские ведомости», «Виленский вестник», «Минские губернские ведомости» і інш. Аўтар прац «Беларускія песні. Валачобныя. (Запісаныя ў Барысаўскім павеце Дз. Бл-м)» (1868), «Практычнае кіраўніцтва па нагляднаму засваенню рускага правапісу» (1873), «Гістарычны нарыс Ваўкавыска, павятовага горада Гродзенскай губ.» (1881), «Рэха: П'янства і яго вынік» (1902), «Горкая праўда пра п'янства» (1906), «Як адмовіцца ад спіртных напіткаў» (1912) і інш. У 1890 выдаў фальклорна-этнагр. зборнік «Пінчукі» (Спб.), матэрыялы для якога сабраны ім у 1870-я г. Зборнік прысвечаны духоўнай культуры насельніцтва цэнтр. часткі Палесся і складаецца ў асноўным з песень, якія Б. разглядае як матэрыял для характарыстыкі народа, яго жыцця і творчасці. У яго ўключаны таксама загадкі, прыказкі і прымаўкі, апісанні вераванняў, абрадаў і звычаяў. Пашпартызацыя фальклорных твораў адсутнічае. Аўтар рамана «Блізняты» (Спб., 1903), аповесці «У баку ад жыцця» (Спб., 1909; па аўтабіяграфічным матэрыяле).

*Тв.*: Напутное молодому русскому солдату. Спб., 1884; Домик Петра Великого и его святыня в С.-Петербурге. Спб., 1891; Нижегородские легенды. Спб., 1896; Отголоски старины об Отечественной войне. Спб., 1912. *А. І. Гурскі.*

**БУЛЁН,** крышаны, традыцыйная рэдкая страва. Вараць з крышанай бульбы і морквы, засквварваюць салам з цыбуляй, кавалачкамі сялянскай каўбасы, летам прыпраўляюць пер'ем цыбулі, кропам. Часам Б. замест засквары забельваюць. Вядомы на ўсёй Беларусі.

**БУЛКА,** невялікі хлеб з пшанічнай мукі; белы хлеб; жытні хлеб; бохан хлеба.

**БУ́ЛЬБА** варaная, парaная, традыцыйная штодзённая ежа. Самай простай па спосабу прыгатавання сялянскай стравай была Б., вараная ў лупінах (Б. з лупінамі, сухапарка, лупаны, Б. ў мундзірах); яе гатавалі, калі было мала Б., не хапала солі ці недставала часу на прыгатаванне. Б. мылі, накладвалі ў чыгун, залівалі вадой і варылі. Часам бульбіны перарэзвалі (рэзанкі), тады абавязкова салілі. Звараную ў лупінах Б. абіралі (лупілі) і елі, мачаючы ў соль або з лёкам. Часцей сырую Б. чысцілі і варылі з соллю (салёнікі, варонкі, скобленка). Маладую Б. скраблі (чохалі). Вараную Б. мачалі ў тук, елі з малаком, баршчом, часам замест хлеба. У посныя дні Б. елі з журам, тоўчаным ільняным семем, *каплуном*, квасам, капустай, саладухай, куляшом, селядцамі, летам — з халадніком, зялёнай тоўчанай цыбуляй. Верхнія бульбіны ў гаршку, што падгаралі, браліся скарынкай (прыгаркі, гарэлікі, асмалкі), раздавалі дзецям. Юшку з варанай Б. сцэджвалі; у некаторых раёнах Палесся ў яе крышылі зялёную цыбулю і елі з Б. (расолкі). Б. таксама пяклі (пячонікі, пячонцы) у прыску печы, грубкі, пастухі — у кастры. У наш час Б. як традыцыйная штодзённая ежа шырока распаўсюджана па ўсёй Беларусі. *Г. Ф. Вештарт.*

**«БУ́ЛЬБА»,** сцэнічны танец. На аснове фальклорнага варыянта музыкі да танца «полька-Б.» К. Алексютовіч стварыў сцэнічную кампазіцыю. Шырокую вядомасць атрымаў у пастаноўцы І. Майсеева. Танец увайшоў у побыт народа і стаў настолькі папулярны, што яго сталі называць «народным». *А. Л. Варламаў.*

**БУЛЬБЯ́НІКІ,** 1) бліны з бульбы, тое што і *дранікі*. 2) Традыцыйная страва з тоўчанай бульбы ў выглядзе галушак. Іх запякаюць са смятанай ці тоўчаным ільняным семем у лёгкім духу печы. Б. пашыраны па ўсёй Беларусі.

**БУРАКІ́,** традыцыйная рэдкая страва. Вараць з салодкіх пакрышаных кавалачкамі буракоў, дадаюць капусны або гурочны расол, квас, воцат і спецыі. Гатуюць з мясам ці засквварваюць, прыпраўляюць смятанай. Ядуць з хлебам, бульбай. Пашыраны на ўсёй Беларусі. *І. П. Корзун.*



Букетнікі.

**БУРАКО́ЎСКАЯ** Ніна Іванаўна (н. 24.9.1936; с. Мядзведзі Краснагорскага р-на Бранскай вобл.), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. навук (1982). Чл. КПСС з 1969. Скончыла Маскоўскі гісторыка-архіўны ін-т (1958). Працавала ў ЦДГА БССР у Магілёве (1958—61), у Дзярж. архіве Мінскай вобл. (1961—70), з 1976 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1984 старшы навуковы супрацоўнік). Даследуе матэрыяльную культуру насельніцтва Беларусі, промыслы і рамёствы. Сааўтар прац «Помнікі народнай архітэктуры і побыту Беларусі» (1979), «Помнікі этнаграфіі» (1981), «Промыслы і рамёствы Беларусі» (1984). *Т. Я. Жэбіт.*





Бурка (вопратка). Брагінскі раён.

**БУ́РКА,** 1) мужчынская вопратка з башлыком, што надзявалі ў дарогу ў халоднае ці дажджлівае надвор'е паверх кажуха ці світкі. Доўгая, прамога

крою, двухбортная, з адкладным каўняром, шырокім хлясцікам (радзей падпяразвалася поясам), 4 праразнымі кішэнямі (вертыкальнымі на грудзях, гарызантальнымі па баках); зашпільвалася на гузікі. Шылі з саматканага валенага сукна карычневага, чорнага ці шэрага колераў. Святочныя Б. ўпрыгожвалі аблямоўкай, шнурком, дэкаратыўнай строчкай (штапам) і нашыўкамі з чорнага ці чырвонага сукна, тасьмы; найбольш выразна аздаблялі башлык. Узоры галінак, арнамент з ліній, зігзагаў, сетак, утвораныя штапам, стасаваліся з агульнымі канструкцыйнымі элементамі Б. Як тып вопраткі прыйшла ў Еўропу з Усходу (тэрмін лічыцца персідскім). На Беларусі вядома з 17 ст., напачатку як адзенне для верхавой язды. З канца 19 ст. пад уплывам гарадскога касцюма замацавалася ў сялянскім асяроддзі. Да 1950-х г. бытавала амаль на ўсёй Беларусі (у некаторых мясцовасцях называлася бурносам). 2) Шчыльная ўзорыстатканая спадніца з паўшарсцяной валенай саматканкі; святочнае паясное адзенне жанчын Магілёўшчыны, характэрна таксама для *маларыцкага строю*. Шылі з 4—5 полак, якія ткалі камбінаваным спосабам: узор выконвалі бранай, фон — шматнітовай тэхнікай. Б. была адносна кароткай (закрывала калені) з запрасаванымі буйнымі складкамі. Аздаблялі вытанчаным геаметрычным арнаментам карычнева-чырвоных папярочных палос, што рытмічна чаргаваліся і заканчваліся больш шырокім дамінуючым шлякам па нізе. Б. насілі да 1940-х г.

*Г. М. Курыловіч, М. Ф. Раманюк.*



Маладзіца ў святочным **бурносе.** Вілейскі раён. Канец 19 ст.

**БУ́РКІ,** самаробны абутак накшталт валёнак, пашыты з праштабнаванага сукна, з ватнай пракладкай або без яе. Насілі з *бахіламі*, галошамі ў халодную пару года.





**Бурка** (спадніца). Маларыцкі раён. Канец 19 ст.

Выманне рыбы з аднагорлавага **буча.**

**БУРЛА́ЦТВА,** перамяшчэнне суднаў па рэках супраць цячэння пры дапамозе ручной цягі. Было выклікана ростам перавозак пры тэхнічнай недасканаласці рачнога транспарту. У 17—19 ст. Б. на Беларусі стала самастойным адыходніцкім промыслам (гл. *Адыходніцтва*). У бурлакі найма́ліся мужчыны вялікай фізічнай сілы ва ўзросце ад 20 да 50 гадоў (зрэдку і жанчыны). Невыносныя ўмовы працы і бязлітасная эксплуатацыя рабілі жыццё бурлака вельмі цяжкім. Б. было вядома на ўсіх буйных рэках: Дняпры, Прыпяці, Нёмане, Бугу, Зах. Дзвіне, Бярэзіне, а таксама на Дняпроўска-Бугскім і Агінскім каналах.

На Беларусі вядомы 2 спосабы перамяшчэння суднаў з дапамогай бурлацкай цягі — лінай і завозам (падачай). У першым выпадку бурлакі ішлі берагам (па *бічоўніку*) і цягнулі судна за канат, надзеўшы на грудзі і плечы скурапую ці палатняную лямку (скарач). Канат (ліна, кадол, голька) даўжынёй да 50 м прымацоўваўся да мачты судна ці да спецыяльнага шаста (журавель, малец). Для цягі *шкута*, напр., патрабавалася 50—100 бурлакоў, *лайбы* — 4—5. Перамяшчэнне грузавога судна завозам (падачай) ажыццяўлялася наступным чынам: судна спынялася на станавым якары, а завозны якар з прымацаваным ад яго канатам адвозіўся на завознай лодцы наперад на даўжыню каната-падачы (100—400 м) і апускаўся ў ваду. Другі канец каната падаваўся на судна і выбіраўся на палубу бурлакамі. У залежнасці ад грузападымальнасці суднаў у завозе ўдзельнічалі 8—30 чалавек. Завозны канат на палубу часам выбіралі пры дапамозе калаўрота, умацаванага ў насавой частцы судна (на яго накручвалі канат і падцягвалі судна да таго месца, дзе быў закінуты завозны якар). Уверх па Прыпяці, Ясельдзе, Бярэзіне, а таксама па Агінскім, Дняпроўска-Бугскім каналах лінай цягнулі плыты лесу (плыт-пас даўжынёй 100 м цягнулі звычайна 15 бурлакоў-пасавых). Шырокае распаўсюджанне параходства ў канцы 19 ст. паступова выцесніла Б.

*Н. І. Буракоўская.*





Бучы аднагорлавыя. Пінскі краязнаўчы музей і вёска Улазы Мастоўскага раёна.

**БУРНО́С,** 1) верхняе адзенне беларускіх жанчын. Пашыраны з 19 ст. пад уплывам зах.-еўрап. гарадскога касцюма. Апраналі яго ў халоднае надвор'е як святочную вопратку замест світкі ці кажуха. Шылі з шэрага, радзей белага, саматканага валенага сукна.

Аднабортны, доўгі, расшыраны ўнізе Б. зашпільваўся на гузікі, меў адкладны каўнер (на Вілейшчыне без каўняра) і 2 невялікія бакавыя завышаныя накладныя кішэні ў форме пяцівугольніка. Рукавы з авальна падкроенай галоўкай уточваліся ў круглую пройму. Аздаблялі нашыўкамі і аблямоўкай чорнага аксаміту (мошасту), шаўковай ці сацінавай тасьмы, дэкаратыўным чорным штапам (машыннай строчкай). Чорныя паскі нашывак рознай шырыні арганічна спалучаліся са строгай графічнасцю лінейнага арнаменту ў выглядзе хваль, зубчыкаў, спіралей, утвораных чорнымі ніткамі машынных строчак, што кампанаваліся ўздоўж беражкоў, па крыссі, па нізе спінкі, рукавоў, на кішэнях і каўняры. Найбольш пашыраны ў строях Палямоння і Цэнтр. Беларусі да 1930-х г. 2) Мужчынскае верхняе адзенне, тое, што і *бурка*.
*М. Ф. Раманюк.*

**БУСА́К,** 1) доўгі абчасаны шост, які служыў для перасоўвання драўляных суднаў на мелкаводдзі. На ніжнім канцы Б. быў жалезны наканечнік, на верхнім — драўляная падушка, на якую рабочыя налягалі грудзьмі, упіраючыся Б. у дно ракі. Для ходу на Б. на кожным борце *берліны* станавілася да 15 рабочых. 2) Тое, што і *багор*.



**Буч** двухгорлавы. Вёска Пескі Пружанскага раёна.

**БУЧ,** традыцыйная рыбалоўная прылада; сплеценая з дубцоў або зробленая з драніцы камера конусападобнай ці цыліндрычнай формы. Лакальныя назвы вярша, кош. У конусным Б. мелася адна лейкападобная перагародка (горла), у цыліндрычным — дзве. Рыба пранікала ў Б. праз вузкае горла, якое аднaчасова перашкаджала выходзіць ёй назад. З аднагорлавых Б. улоў вымалі праз адтуліну ў вузкім яго канцы, якую на час лоўлі закрывалі драўляным коркам, травой, сенам. У двухгорлавым Б. рабілі дзверцы. Аднагорлавы Б. прызначаўся толькі для лоўлі рыбы, двухгорлавы — пераважна для лоўлі ракаў. У вадаёме Б. устанаўлівалі пры дапамозе калкоў, часам сумесна з *езамі*. Б. былі распаўсюджаны па ўсёй Беларусі. Для Палесся характэрны аднагорлавыя Б. ў форме поўнага конуса; для Паазер'я — у форме конуса, падзеленага па вертыкалі папалам. На Гродзеншчыне іх рабілі пірамідальнай формы, на Магілёўшчыне і Віцебшчыне — у форме палавіны конуса без горла (рыба ў ім утрымлівалася напорам вады).
*І. М. Браім.*

**БЫКО́ЎСКІ** (Bykowski) Якса Пётр (31.1.1823, с. Якушынцы Вінніцкай вобл.— 3.6.1889), польскі пісьменнік, збіральнік і даследчык беларускіх народных песень і абрадаў. Скончыў Кіеўскі ун-т (1843). З 1858 жыў у Камянцы, з 1866 — у Варшаве. Вядомы як аўтар аповесцей, гал. чынам пра гіст. мінулае польскай шляхты пагранічных абласцей (Украіна). У штогодніку «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Збор звестак па айчыннай антрапалогіі». 1878. Т. 2) апублікаваў працу «Абрадавыя песні рускага насельніцтва з ваколіц Пінска», у якой даў апісанне кустовага і вясельнага абрадаў на Піншчыне і змясціў абрадавыя вясельныя песні, 12 каляндарна-абрадавых (кустывыя, вясновыя, летнія і інш.) песень, 17 пазаабрадавых песень, прымеркаваных да каляндарных абрадаў.
*А. Ф. Літвіновіч.*



**Бычок.** Пінскі раён.



**Бычок.** Вёска Гарадная Столінскага раёна.

**БЫЧО́К,** традыцыйнае прыстасаванне для захавання рыбы ў вадзе. Лакальная назва садок. Уяўляў сабой прадаўгаватую пасудзіну, звужаную ў тарцах, мог мець і форму цыліндра. Плёўся з дубцоў і вырабляўся з дранак, перавітых шнуркамі ці дротам. У баку Б. была адтуліна, якая закрывалася дзверцамі. Б. утапляўся ў ваду пры дапамозе каменя-грузіла.
*І. М. Браім.*

**БЫЧО́К,** прыстасаванне для звязвання плытоў у бассейне Зах. Дзвіны; завостраная палка даўж. 40—60 см, якой закручвалі *віцы*.

**«БЫЧО́К»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны ці хуткі. Вядомы ў некалькіх харэаграфічных варыянтах: найбольш старажытны блізкі да карагодаў, у якіх танцоры імітавалі баданне бычкоў; пазнейшыя набліжаюцца да кадрылі; сустракаюцца сольныя імправізаваныя варыянты. «Б.» мог быць састаўной часткай *«Жаніцьбы Цярэшкі»*, дзе выконваўся пад прыпеўкі; напр. на Віцебшчыне спявалі:

Ах, матулечка, бычка, бычка,
бычка,
Разгулялася дачка, дачка, дачка,
Ах, матулечка, цялушачка,
Разгулялася дачушачка.

Пашыраны па ўсёй Беларусі.
*Ю. М. Чурко.*



Расклад **бэлек** удоўж у хаце.



Расклад **бэлек** упоперак у хаце.

**БЭ́ЛЬКА,** гарызантальны нясучы элемент будаўнічай канструкцыі для падтрымання насцілу *столі*. У перакрыццях гаспадарчых пабудоў Б. звычайна рабілі круглымі (з бярвёнаў), у хаце — склюдаваныя (з брусоў). Рознае размяшчэнне Б. (удоўж, упоперак, змешанае, з падзелам Б. на галоўную — *трам* і другарадныя) — важны сродак стварэння мастацкай выразнасці інтэр'ера хаты. На Б. вешалі калыску, мацавалі *хадунок*, *жэрдкі* і інш. Канцы Б., што выступаюць звонку хаты, выкарыстоўваюць для



Змешаны расклад **бэлек** у хаце.



Расклад **бэлек** у хаце з галоўнай бэлькай (трам).



Драўляны **бязмен.** Вёска Маркава Маладзечанскага раёна.

стварэння *карніза.* У канцы 19 — пач. 20 ст. на Беларусі ў вясковым будаўніцтве пераважала столь на папярочных Б., канцы якіх служылі для запуску *крокваў.* У залежнасці ад канструкцыйнага вырашэння столі Б. могуць мець пазы, у якія кладуць дошкі. У хаце на Б. часам выразалі памятныя надпісы (год будаўніцтва і інш.).
*С. А. Сергачоў.*

**БЭ́ТА** Генрык, беларускі папулярызатар рацыянальнага пчалярства з ваколіц Сухаволі Сакольскага пав.; гл. *Бярозка* Г.

**БЯГУ́Н,** канструкцыйны элемент варот ці дзвярэй са ствала дрэва з натуральным адгалінаваннем або са стойкі і прымацаваных да яе гарызантальных брускоў, што стваралі аснову палатна варот (дзвярэй). Стойку Б. ніжнім канцом з шыпам устаўлялі ў спецыяльны паз, зроблены ў шуле, а верхні мацавалі да яго скруткам лазы ці вяроўкай, пазней — скабой.

**БЯГУ́Н,** вяроўка, скручаная з бярозавых галінак для звязвання звёнаў плыта на Віцебшчыне. Лакальная назва бігун.

**БЯДА́,** д в у х к о л к а, двухколавая павозка для язды на кароткія адлегласці. Лакальная назва вяртушка. Складалася з восі-асновы, на якую насаджваліся 2 колы, і замацаваных паверх яе дзвюх жэрдак, што служылі адначасова аглоблямі і апорай кузава. Кузаў рабілі ў выглядзе скрыні ці плецёнага каша з сядзеннем. Невысокія амартызацыйныя ўласцівасці рабілі Б. больш прыдатнай для язды па роўных дарогах. Лёгкасць і прастата канструкцыі абумовілі яе шырокае распаўсюджанне ў гарадскім і сельскім нар. побыце. Падобныя павозкі шырока выкарыстоўваліся ў гаспадарчых мэтах (падвозу вады і розных малагабарытных грузаў). У гэтым выпадку вадавозныя (ці пажарныя) бочкі стацыянарна замацоўвалі на двухколках. З 1950-х г. паступова выйшлі з ужытку.
*В. С. Цітоў.*

**«БЯДА́»,** народны танец-карагод. Выканаўцы браліся за рукі і ўтваралі круг з салістам насярэдзіне. Музыкант пачынаў жаласна граць, усе паволі кружыліся. Саліст закрываў вочы хустачкай, нібыта плакаў — «бедаваў». Як толькі музыкант пачынаў іграць вясёлую мелодыю, саліст хапаў каго-небудзь з круга і пачынаў з ім хутка кружыцца. Са зменай вясёлай мелодыі на сумную ён адпускаў партнёра і ўсё паўтаралася спачатку. «Б.» зафіксавана С. Карскім у канцы 19 ст. ў Ашмянскім пав.
*Ю. М. Чурко.*

**БЯЗМЕ́Н,** 1) даўняя ручная рычажная вага. Металічны або драўляны стрыжань з пастаянным грузам (гірай) на адным канцы і кручком ці чашкай для ўтрымання грузу на другім. На стрыжні шкала адліку і рухомая апора — абойма ці драцяная пятля. Карысталіся Б. пераважна ў нар. побыце. Часам Б. называюць ручную спружынную вагу. 2) Даўняя мера масы на Беларусі, велічыня якой у розныя часы мянялася ад 6 да 10 *фунтаў.*
*К. І. Скурат.*

**БЯЛЕ́ННЕ,** спецыяльныя спосабы апрацоўкі льняной пражы ці даматканага палатна, у выніку якіх



**Бяда.**



Жалезны **бязмен.**



**Бягун.** Вёска Велямічы Столінскага раёна.

натуральны колер лёну выбельваўся. Звычайна бялілі пражу, прызначаную для ўтку ўзорыстых многанітовых ці перабіраных тканін (ручнікоў, абрусаў і інш.). Маткі пражы вымочвалі ў шчолаку, залівалі ў жлукце, паласкалі і развешвалі на сонцы. Палатно вымочвалі, выбівалі пранікам на рэчцы, паласкалі, а затым рассцілалі на роснай траве (прадвеснем на снезе) для Б. пад сонечнымі промнямі. Такі спосаб Б. бытаваў да сярэдзіны 20 ст., пасля паступова выцесніўся Б. пры дапамозе хімічных рэчываў.
*Г. М. Курыловіч.*





Белякі.

**БЯЛІ́ЛЬНЯ,** у фальварках — комплекс збудаванняў для адбельвання палатна. На Беларусі вядомы з 17 ст. Напр., у маёнтку Бранчыцы (Салігорскі р-н) у 1682 Б. уключала пляцоўку, дзе рассцілалі палатно для адбельвання, і збудаванне 3-камернай планіроўкі з «валкоўняй» (тут на спецыяльных валках гладзілі адбеленае палатно) і жылым пакоем майстра-бялільшчыка з каморай абапал сянец.

**БЯЛЯ́ВІНА** Валянціна Мікалаеўна (н. 25.5.1941, в Крынкі Лёзненскага р-на), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. навук (1985). Скончыла БДУ (1966). З 1966 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1986 навуковы супрацоўнік). Даследуе культуру насельніцтва Беларусі, нар. адзенне, дрэваапрацоўчыя промыслы і рамёствы. Сааўтар прац «Беларускае народнае адзенне» (1975), «Змены ў побыце і культуры гарадскога насельніцтва Беларусі» (1976), «Этнічныя працэсы і лад жыцця» (1980), «Помнікі этнаграфіі» (1981).

**БЯЛЯ́К,** прылада для мяцця скур; дзве драўляныя завостраныя стойкі, часам абабітыя жалезам. Пакладзеную на стойкі скуру прыцiскалі каленам або ступнёй (на Палессі спецыяльным друком, замацаваным адным канцом у сцяне) і разміналі.

**БЯРО́ЗАВІК,** традыцыйны напітак з бярозавага соку. У бочку з сокам дабаўляюць прарошчаны і падпрэжаны ячмень або сухары, часам крыху цукру ці мёду, ставяць яе ў цёмнае халаднаватае месца, часам закопваюць у зямлю на 4—6 тыдняў. Вытрыманы квас смачны і добра наталяе смагу. Быў пашыраны на Пн, У, ПдЗ Беларусі, на Палессі. У наш час шырока вядомы на ўсёй тэр. рэспублікі.

**БЯРО́ЗКА** (сапр. Бэта) Генрык, беларускі папулярызатар рацыянальнага пчалярства з ваколіц Сухаволі Сакольскага пав. Пчалярства лічыў адным са сродкаў паляпшэння дабрабыту малазямельных сялян. Аўтар кнігі па



практычнаму пчалярству «Пчаліна — жывёлка малая, а карысці дае многа», выдадзенай на бел. мове ў Пецярбургу ў 1911. Кніга складаецца з 2 частак: «Вулей, пасечная прылада, пчолы, іх жыццё і г. д.» і «Гаспадарка ў вуллі». У ёй змешчаны чарцяжы і даецца падрабязнае апісанне вырабу варшаўскага вулея, усіх відаў работ па пчалярству ў залежнасці ад пары года, вычарпальныя адказы на пытанні, што могуць узнікнуць у штодзённай практыцы маладога пчаляра. Мова кнігі вобразная і зразумелая нават малапісьменнаму селяніну. Шмат палажэнняў і рэкамендацый кнігі не страцілі актуальнасці і ў наш час. *С. Ф. Цярохін.*

**«БЯРО́ЗКА»,** танец-карагод. Музычны памер $^3/_4$, $^4/_4$. Тэмп ад павольнага да ўмеранa хуткага. У некаторых раёнах выконваўся дзяўчатамі ў час *гукання вясны*, абавязковы атрыбут — галінкі бярозы, якія выканаўцы трымаюць у руках. Вядомы таксама як парны карагодны танец, не звязаны з абрадавым дзеяннем. Характэрныя элементы танца — простыя крокі па крузе і адначасовае прысяданне ўсіх выканаўцаў на пэўны такт музыкі. Танец суправаджаецца шматлікімі і разнастайнымі прыпеўкамі (музыку запісаў Г. Цітовіч). «Б.» зафіксавана на ўсёй Беларусі. У Мінскай вобл. танец суправаджаў гульню *«Жаніцьба Цярэшкі»*.
*А. Л. Варламаў.*

**БЯСЕ́ДА,** збор гасцей з пачастункам, на які запрашалі родных, суседзяў, блізкіх знаёмых з нагоды свят, сямейных урачыстасцей. Застолле суправаджалася пажаданнямі, прыгаворамі, ласкавымі прымусамі. Спявалі бяседныя (застольныя) песні. Ім уласцівы велічальныя матывы, у якіх услаўляюцца багаты стол, шчодрыя гаспадары, жаданыя госці.


Pčalina — żywiolka malaja,

a karyści daje mnoha.

PIECIARBURH.

Вокладка кнігі «Пчаліна — жывёлка малая, а карысці дае многа» **Г. Бярозкі** (Пецярбург, 1911).

**БЯССО́ЛЬНІК,** рэдкая страва, звараная на хлебным квасе з крупамі (звычайна прасянымі) без солі. Запраўлялі Б. звычайна тоўчаным канапляным семем (замінали) або смятанай. Найбольш вядомы ў Цэнтр. Палессі.



**ВА́БА**, спосаб палявання, заснаваны на прываблiваннi дзiчыны голасам або гукам на адлегласць выстралу. Лакальная назва вабенне. Патрабуе ведання звычак i паводзiн прамысловых звяроў i птушак, умення перайма́ць iх галасы. Паляўнiчыя выкарыстоўваюць для В. разнастайныя гукаперaймальныя iнструменты (вабiкi, вабiлы): звярыныя рогi, трубы, дудачкi, свiсткi i свiстулькi з дрэва, кары, костак. Напрыклад, ласёў у перыяд гону прываблiвалi голасам ласiхi, якi iмiтавалi пры дапамозе хваёвага конуснага вабiка (у 1920—30 г. выкарыстоўвалi лямпавае шкло або пустую пляшку з адрэзаным дном), аленяў — бычыным рогам, лiсоў — драўлянай пiскулькай, што iмiтавала мышыны пiск, качак — пiшчыкамi, ваўкоў — iмiтацыяй воўчага голасу, што ўтвараўся пры дапамозе вуснаў i далоней паляўнiчага. Высокапрафесiйная разнастайнасць В. ваўкоў — паляванне з падыходу на падвыўку: у канцы лета ваўчанятам не хапае ежы i яны выпаўзаюць з логава насустрач бацькам на адлегласць 300—400 м. Вопытныя ваўчатнiкi i ў наш час здабываюць ваўкоў такiм спосабам.
*С. Ф. Цярохін.*

**ВА́БIК**, пастка для прываблiвання i лоўлi пчалiных раёў, падобная да невялiкага калоднага вулля. Лакальныя назвы навужнiк, настаўка, стаўбун. Выраблялi з рознага спадручнага матэрыялу, часцей з яловай кары. Расстаўлялi на дрэвах вакол пасек, у лесе, на палявых межах. Для прынады сярэдзiну В. нацiралi духмянай травой мелiсай, апырсквалi сытой, клалi кавалачкi сотавага мёду, галiнку алешыны з маладымi лiсточкамi. Аселены рой перасаджвалi ў вулей.
*У. С. Гуркоў, С. Ф. Цярохін.*

**ВА́БIК**, п i ш ч ы к, дудачка або свiсток, якiмi ў час палявання падзываюць птушак або звяроў, падрабляючы iх голас.

**ВАДЖЭ́ННЕ I ПАХАВА́ННЕ «СТРАЛЫ́» («СУЛЫ́»)**, даўнi ахоўна-засцерагальны i магiчна-аграрны веснавы абрад; тое, што i *«Страла»*.

**ВАДЗЯНÍК**, у старадаўнiх павер'ях беларусаў i iнш. народаў — уладар вадаёмаў, жывых iстот у iх. На Беларусi яго ўяўлялi ў выглядзе старога чалавека, укрытага водарасцямi i цiнай, з зялёнай барадой, доўгiмi валасамi на клiнападобнай галаве, расплывiстым тварам. Лiчылi, што В. жыве ў вiрах рэк, асаблiва каля млыноў («вiрнiк»), на дне азёр, крынiц, глыбокiх калодзежаў («цiхоня»). Яму прыпiсвалi рух, памутненне вады, пару над ёй, разлiвы рэк, псаванне рыбалоўных прылад, разбурэнне плацiн, млыноў, гiбель людзей i жывёл у вадзе (увасабленне воднай стыхii, яе небяспекi). У першыя замаразкi млынары часам ахвяроўвалi яму мяса, а ў некаторых месцах (на Пн Мiншчыны) рыбакi звярталiся да яго з просьбай папрыяць лоўлi. Вобраз В. страцiў рэлiгiйнае значэнне ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. i захаваўся ў фальклоры (марскi цар у стараж.-рускiх былiнах i чарадзейных казках беларусаў i iнш. народаў).
*М. Ф. Пілiпенка.*

**ВАДЗЯ́НКА**, бандарны выраб; пасудзiна ў форме кадушкi цi цэбра для вады. Мела накрыўку i чарпак *(конаўка, карэц)*. Ставiлi В. ў хаце каля парога цi ў сенцах. У наш час сустракаецца рэдка.

**ВАДО́ХРЫШЧА**, зiмовае свята *народнага календара* (адзначалася 6 студзеня с. ст.), якiм завяршалiся *каляды*. Хрысцiянская рэлiгiя звязвае В. з хрышчэннем Iсуса Хрыста Iаанам Хрысцiцелем на рацэ Iардан (таму ў гэты дзень у цэрквах адбываецца асвячэнне вады, якую некалi бралi з блiжэйшай рэчкi, праслаючы на лёдзе вялiкi крыж). Яшчэ з дахрысцiянскiх часоў верылi ў цудадзейную моц свяцонай вады: яе давалi выпiць хвораму, апырсквалi поле перад сяўбой, хатнюю жывёлу, новую хату перад засяленнем, труну перад тым, як пакласцi нябожчыка. На В. варажылi пра будучую гаспадарку: часалi лён, каб такiмi ж гладкiмi былi цяляты; лавiлi шапкамi i фартухамi падкiнутую ўгору жменю гароху i па злоўленых гарошынах лiчылi колькасць цялят, што народзяцца ў гэты год; па дыму ад запаленай лучыны меркавалi, адкуль трэба чакаць пчалiных раёў, i г. д.; варажылi таксама пра суджанага. В. звычайна супадала з самымi халоднымi днямi зiмы, пасля якiх год паварочваў на лета.
*У. А. Васілевiч.*



Вабік.

**ВА́ЖНIЦА**, тып старадаўняй пабудовы ў гарадах i некаторых мястэчках Вял. кн. Лiтоўскага, дзе вымяралася прывезенае на продаж купцамi збожжа i iнш. тавары. Уяўляла сабой 1-павярховы мураваны цi драўляны будынак, накрыты 2- або 4-схiльным дахам. Унутры вылучалiся 2 памяшканнi: уласна В., дзе захоўвалiся гарадская вага i меры, i мернiца, дзе ўзважвалi i вымяралi тавары. На Беларусi ў 16—18 ст. В. iснавалi ва ўсiх значных гарадах; звычайна на гандлёвых плошчах, часам блакiравалiся з ратушамi i гандлёвымi радамi. Часам В. будавалi на галоўных дарогах у комплексе з брамамi i тамажнямi.
*Ю. А. Якімовiч.*

**ВА́ЗА** (франц. vase ад лац. vas сасуд, пасудзiна), глыбокая глiняная пасудзiна з шырокiм вусцем i двума вушкамi па баках. Яе ўпрыгожвалi арнаментам, пакрывалi палiвай. На вялiкдзень у ёй насiлi ў царкву асвячаць пасху, яйкi i iнш. святочныя стравы. Бытавала пераважна на У Беларусi. У наш час выйшла з ужытку.

**ВАЗО́К**, лёгкiя выязныя санi. Iх выгляд у значнай ступенi адлюстроўваў заможнасць i сацыяльную прыналежнасць уладальнiка. Дэкаратыўна аздоблены кузаў меў звычайна козлы для вазнiцы, яго абшывалi лубам цi тонкiмi дошкамi, у заможнай шляхты абiвалi знутры сукном, высцiлалi футрам, часам меў закрыты цi паўзакрыты верх. Спiнку i перадок часта ўпрыгожвалi контурнай або прапiлаванай разьбой, размалёўвалi разнаколернымi раслiннымi цi геаметрызаванымi ўзорамi. Мясцовыя майстры дасягалi разнастайнасцi ў афармленнi асобных элементаў, iх узгодненасцi форм i прапорцый, што надавала ўсёй канструкцыi функцыянальную мэтазгоднасць, лёгкасць i выразнасць. В. вядомы са старажытнасцi У сярэднiя вякi важныя службовыя асобы, магнаты выкарыстоўвалi iх ва ўрачыстых выездах нават улетку. Сялянам замест В. звычайна служылi развалкi, паверх якiх у задняй частцы мацавалася трохбаковая спiнка (драбiнка) або плецены палукашак. У сельскай мясцовасцi В. зрэдку сустракаецца i ў наш час.
*В. С. Цітоў.*



Ваза.

**ВАЗО́ЎНЯ,** гаспадарчая пабудова, дзе захоўваліся транспартныя сродкі. Звычайна мела выгляд *павеці* з адна- ці двухсхільным дахам, прыбудаванай да хлява ці інш. гаспадарчай пабудовы. У В. захоўвалі таксама колатыя дровы, некаторыя с.-г. прылады.

**ВАЛАКУ́ША,** 1) прымітыўнае палазное прыстасаванне для перавозкі грузаў ва ўмовах бездарожжа — дзве доўгія, замацаваныя папярочкамі жэрдкі, адны канцы якіх служылі палазамі, другія аглоблямі. Былі В. і без аглабель, каня ў іх запрагалі з дапамогай пастронкаў і ворчыка. В. перавозілі бярвёны ў лесе, каменне з палёў. У наш час В. сцягваюць сена з забалочаных сенажацей. 2) Прыстасаванне для перасоўвання сена да стога. 3) Старадаўняя прылада для рыхлення глебы; тое, што і *вершаліна.* 4) Невялікі невад для лоўлі дробнай рыбы.

**ВАЛАТО́ЎКІ,** старажытныя, пераважна доўгія курганы — невысокія валападобныя земляныя насыпы, што лічацца пахавальнымі помнікамі *крывічоў.* Паводле нар. паданняў, у іх пахаваны *волаты.* Назва найбольш пашырана на Пн Беларусі і ў сумежных раёнах Пскоўшчыны, Смаленшчыны і Латвіі, у мінулым карэнных землях крывічоў. У некаторых месцах Віцебшчыны В. называюць таксама звычайныя могілкі.

**ВАЛАТО́ЎСКІ** Міхаіл Міхайлавіч, беларускі краязнавец і этнограф 2-й пал. 19 ст. Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1875), працаваў у ёй настаўнікам. Доўгі час жыў на Палессі, вывучаў яго гісторыю, заняткі, побыт і культуру насельніцтва. Свае асабістыя ўражанні і назіранні выклаў у 17 нарысах, апублікаваных у газ. «Русский мир» (1875). У артыкулах акрэсліваў межы бел.-укр. Палесся: паўн.— ад Брэста міма Кобрына, Слоніма і Слуцка да вярхоўяў Бярэзіны, Студзёнкі і Друці; паўд.— паблізу Уладавы, Ковеля, Клевані да Радамышля і далей па Дняпры да ўпадзення Цецерава. У нарысах заміloўваўся прыродай Палесся, якое лічыў першабытным краем. Пры апісанні побыту і культуры беларусаў адзначаў захаванне перажыткаў язычніцтва, якія яшчэ мала былі крануты хрысціянствам. Коратка апісваў каляндарныя святы і абрады беларусаў-палешукоў: каляды, запусты, купалле, русальныя абрады; з пазіцый праваслаўя тлумачыў адсталасць і нізкі культурны ўзровень народа. Ярка і каларытна апісаў стараж. легенды, вераванні, знахарства, забабоны. Даў каштоўныя звесткі пра спосабы рыбалоўства ў розныя поры года, пра помнік архітэктуры — Кімбараўскі кляштар. Некалькі нарысаў (з 12-га па 17-ы) прысвяціў пераважна каталіцкай экспансіі на бел. Палессі, намаляваў жахі езуіцкага ордэна, апісаў антыезуіцкія паўстанні ў Мазыры (1581) і Янаве (1657). Перадрукі асобных нарысаў зроблены ў час. «Нива».

*Тв.:* В непогоду: (Очерк из жизни Полесья)//Нива. 1879. № 6; Полесские свята: Из очерков Полесья//Там жа. 1880. № 29. 30; Полесские будни//Там жа. 1881. № 2; Полесская поганьщина//Там жа. 1881. № 27. *В. К. Бандарчык.*

**ВАЛАЧО́БНІКІ**



Ілюстрацыя да нарыса «Палеская паганшчына» **М. М. Валатоўскага.** Пецярбург, 1881.



**Вазок.** Вёска Вулька Драгічынскага раёна.



**Вазок.** Вёска Бершты Шчучынскага раёна.

**ВАЛАЧО́БНІКІ,** асобы, якія выконвалі абрады валачобнага свята. Лакальныя назвы валачоннікі, лалоўнікі. У даўні час свята адзначалі перад пачаткам веснавых земляробчых работ, а ў больш далёкім мінулым ім пачынаўся новы год. Для выканання абрадаў ствараўся валачобны гурт. Галоўным у гурце быў пачынальнік (запявала). Ён пачынаў святочную валачобную песню і спяваў усе яе радкі. Пачынальнікам выбіралі добрага гаспадара, спевака, які дасканала ведаў святочныя абрады, валачобныя песні, віншавальныя арацыі. Важным чынам у гурце быў музыка. Ён суправаджаў спяванне ігрой на скрыпцы (часам было два музыкі: адзін іграў на скрыпцы, другі — на дудзе). Асобны чын — механоша. Ён насіў «валачобнае» — святочныя дарункі гурту. Астатнія В. называліся падхватнікамі. Іх абавязак — спяванне хорам пасля кожнага радка валачобнай песні, прапетага пачынальнікам, яе прыпеву (рэфрэна). Звычайна рэфрэн спяваўся гучна, узнёсла, надаючы песні радасны, святочны характар. Колькасць падхватнікаў вызначала велічыню гурту, у склад яго часам уваходзіла да 20 чал. У пачатку свята гурт абыходзіў усе сялянскія двары па парадку, становячыся паўкругам перад акном хаты і спяваў. Гурт велічаў і славіў гаспадара, яго працу, зычыў плёну на ніве, прыплоду ў статку, шчасця ўсёй сям'і. Большасць песень адрасавалася гаспадару, у іх услаўлялася яго руплівасць, дбайнасць. Велічалі і ўслаўлялі такса-

ма гаспадыню як мудрую мужаву дарадчыцу і памочніцу, незамужнюю дачку, нежанатага сына. Валачобныя песні адлюстроўвалі ўсе этапы гаспадарчых заняткаў, паэтызавалі сялянскі двор, ніву. Валачобныя песні — адзін з самых высокамастацкіх жанраў бел. нар. паэзіі земляробчага календара. Праспяваўшы звернутыя да членаў сям'і песні, В. гаварылі імправізаваныя віншаванні. Пасля гэтага гаспадар або гаспадыня адчынялі акно, дзякавалі В. і давалі ім абрадавы дарунак — валачобнае (яйкі, сыр, каўбасы). Кароткай песняй або некалькімі словамі гурт дзякаваў за дар і жадаў сям'і ўсялякіх даброт. Пасля абходу ўсіх двароў валачобнае дзялілі паміж удзельнікамі гурту. Валачобным абрадам у мінулым надавалася важнае значэнне. Лічылі, што яны спрыяюць ураджаю, дабрабыту сям'і, засцерагаюць ад розных нягод. Аб земляробчым характары валачобнага свята і абрадаў сведчыць і змест песень і тое, што В. часам называлі ралёшнікамі (ад слова ралля). Назва паходзіць ад стараж. тэрміна «валачоба», што значыла «баранаванне». Іншы раз В. называлі кукольнікамі (кукобнікамі). Гэтыя В. насілі шырокую нізкую скрыню з векам, у дне якой былі калочкі з насаджанымі на іх фігуркамі конікаў, абшытымі сукном рознага колеру. У час выканання валачобных песень скрыню рухалі наперад і назад, і фігуркі круціліся. У некаторых выпадках музыку ў гурце называлі скамарохам.

Стараж. валачобнае свята пачало знікаць з побыту ўсх.-слав. народаў у познім сярэднявеччы ў сувязі з узмацненнем хрысціянскай царквы і зменамі ў календары (пераносам пачатку новага года з вясны на зіму). Як стараж. святкаванне яно захоўвалася пераважна на Беларусі, асабліва на яе Пн і ў цэнтр. частцы. Пад уплывам царквы валачобнае святкаванне было прымеркавана да хрысціянскага свята вялікадня і атрымала яго назву, але стараж. найменні даўніх святочных абрадаў, песень, іх выканаўцаў і святочнага дарунка асталіся ранейшыя, дахрысціянскія. Адначасова з новай назвай валачобнага святкавання ў ім адбыліся і змены. Сялянскія двары сталі абыходзіць у межах царкоўнага прыходу, спраўляць абрады ў пачатку вялікадня. У валачобныя песні ўвайшлі элементы хрысціянскай міфалогіі. Змяніўся і полаўзроставы склад валачобнага гурту. Раней В. былі толькі мужчыны, пазней абрады сталі выконваць і жанчыны, а ў канцы 19 — пач. 20 ст. нават дзеці. У гэты час сувязь валачобных абрадаў з хрысціянскай рэлігіяй аслабляецца, змяняецца змест валачобных песень, змяншаецца роля і значэнне ў іх хрысціянскіх элементаў. Валачобныя абрады і песні пачалі траціць рэлігійныя рысы. Далейшыя змены ў валачобніцтве адбыліся ў сав. час. У многіх мясцовасцях яно знікае, а там, дзе яшчэ захоўваецца, абрады спраўляюць звычайна малымі групамі. Традыцыйны падзел абрадавых роляў у гурце ўжо неабавязковы. В. абыходзяць толькі двары сваёй вёскі ці вуліцы або свайго канца вёскі. Валачобніцтва страціла рэлігійныя рысы і захоўваецца ў сучасным побыце некаторых вёсак як вясновая гульня-забава. *М. Ф. Піліпенка.*

**ВАЛАШЧА́НЕ,** в а л а ш а н е, жыхары воласці, сяляне. У сярэднявеччы на тэр. Беларусі — сяляне-абшчыннікі пэўнай акругі з цэнтрам у пагосце ці воласці (княжацкі ўдзел або дзярж. землі, што былі ў прыватным уладанні). У 14—16 ст. тэрмін «В.» ўжываўся для вызначэння насельніцтва воласці (у супрацьлегласць гарадскому — *мяшчанам*). У 2-й пал. 16 ст.— пач. 20 ст. В.— сельскае насельніцтва адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак — валасцей. На этнанімічным узроўні паняцце В. адпавядала назве цэнтр. пасялення воласці (свіслачане — мяст. Свіслач Свіслацкай вол., асвейцы — мяст. Асвея Асвейскай вол.) ці паняццю тутэйшыя, тубыльцы; жыхары інш. валасцей — чужаволасцы. Гэта адлюстроўвала лакальны ўзровень самасвядомасці сельскага насельніцтва, вузка тэрытарыяльны арэал аб'яднальных этнічных працэсаў. *І. У. Чаквін.*

**ВАЛЁК,** драўляная або жалезная качалка (круглая, рабрыстая, чатырохгранная) для разгладжвання лямцу, скуры ў валюшным і гарбарным рамёствах.

**ВАЛЕ́НКІ,** зімовы абутак з валенай воўны. Лакальная назва валенцы. Бытавалі з 19 ст. (спачатку ў заможных сялян), а з пач. 20 ст. набылі шырокае распаўсюджанне, асабліва на У і ПнУ Беларусі. Працэс вырацоўкі В. ўключае некалькі этапаў: закладка вырабу, валенне, фармаванне, аддзелка (гл. ў арт. *Валюшнае рамяство*). Валенне (катанне) В., асабліва дзіцячых, бытуе і ў наш час у вёсках. Майстрывалюшнікі вырабляюць абутак з захаваннем традыцыйнай тэхналогіі і прылад працы. Наладжаны прамысловы выраб В.



**Валёк.**

**ВАЛО́ГА,** малочная поліўка (паранае малако, разведзенае вадой), з якой елі густы *кісель*. У пост або калі не было малака, В. рабілі з тоўчанага канапляната семя. Яго залівалі вадой, шалупінне асядала на дно, а зверху адстойвалася В.— «бы малако». В. рабілі найчасцей у Цэнтр. Палессі. У некаторых раёнах Беларусі В.— закраса з масла (кашу «заваложвалі»).

**ВАЛО́КА,** 1) адзінка вымярэння зямельнай плошчы ў сістэме мер Вял. кн. Літоўскага, роўная 30 моргам (21,36 га). В. мералі і па 33 моргі і па 40. 2) Зямельны ўчастак. З-за неабходнасці падатковага абкладання адрозніваліся В. аселыя, пустыя, чыншавыя, асадныя, цяглыя, копныя і інш.

**ВАЛО́ЧНАЯ ПАМЕ́РА,** аграрная рэформа, якая ажыццяўлялася з канца 1530-х г. да сярэдзіны 17 ст. Выклікана развіццём прадукцыйных сіл, унутранага і знешняга рынку. Мела на мэце дакладны ўлік зямель, вызначэнне іх якасці, уніфікацыю павіннасцей, пераўтварэнне і развіццё сельскіх паселішчаў, пашырэнне фальваркачнай гаспадаркі, павелічэнне прыбыткаў казны і інш. У аснове В. п. ляжаў абмер зямлі на стандартныя зямельныя ўчасткі — *валокі*, якія сталі нормай надзелу і адзінкай абкладання сялян феадальнымі павіннасцямі. Першы абмер зямель на валокі зроблены ў 1552—55 у Пінскім і Клецкім княствах, у велікакняжацкіх і прыватнаўласніцкіх маёнтках Зах. і Цэнтр. Беларусі рэформа пашырылася пасля заканадаўчага афармлення яе «Уставай на валокі» 1557.

Плошча, на якой размяшчалася створаная нанава вёска, звычайна мела форму чатырохвугольніка і падзялялася на 3 палі, а кожнае поле — на аднолькавыя палосы па 11 моргаў (7, 12 га). Вёску пераносілі ў сярэдняе поле, сядзібы размяшчалі ўздоўж вуліцы (звычайна аднай). Хаты ставілі на адным баку вуліцы, гаспадарчыя пабудовы — на другім (гл. таксама арт. *Вёска*). Кожны двор атрымліваў участкі ў 3 палях, што складала 1 валоку (21,36 га). Такім чынам замацоўвалася трохпольная сістэма севазвароту, ліквідоўваліся цераспалосіца, далёказемелле і стракатасць у памерах сялянскіх надзелаў. Але апрацаваць столькі зямлі адной сям'і было цяжка, таму валока давалася 2, часам 3 сем'ям. Залежна ад асноўных павіннасцей сялянства дзялілася на 3 катэгорыі: *цяглыя сяляне, асадныя сяляне, сяляне-слугі.* Пры абмеры землі баяр і шляхты, што знаходзіліся сярод уладанняў вялікага князя і буйных феадалаў, уключаліся ў склад апошніх, баяры і шляхта пры дакументальным доказе сваіх правоў на ранейшую зямельную ўласнасць атрымлівалі кампенсацыі ў інш. месцах. В. п. садзейнічала ўсталяванню і пашырэнню фальварка, дзе панскі засевак павялічваўся пераважна за кошт лепшых сялянскіх зямель. Для выкананя паншчыны зямлю размяркоўвалі так, каб 1 валоцы фальварковай зямлі адпавядала 7 сялянскіх валок. Пры правядзенні В. п. на У Беларусі падзел на валокі не рабіўся, быў праведзены абмер зямлі і вызначэнне яе якасці. Якасць клалася ў аснову памераў павіннасцей. В. п. ахапіла і дзярж. гарады, закранула і зямельныя ўладанні духавенства.

Рэформа ўзмацніла запрыгоньванне сялянства, павялічыла павіннасці, ліквідавала права пераходу да інш. феада-

лаў, уводзіла падворнае землекарыстанне замест абшчыннага, канчаткова пазбавіла сялян права карыстання былымі спадчыннымі зямельнымі надзеламі, на доўгі час вызначыла планаванне сялянскіх вёсак і сядзіб.

**ВА́ЛЬМА** (ням. Walm), тарцовы схіл чатырохсхільнага даху. Утвараецца нахіленымі сохамі або кроквамі, што злучаюць тарэц вільчаковай кладкі (вільчаковага бруса) з вугламі сцен будынка. Вальмавыя пакрыцці вядомы ў нар. жыллі, гаспадарчых пабудовах, некаторых манументальных збудаваннях. На Палессі ў пач. 20 ст. зафіксаваны будынкі з вальмавымі дахамі вянковай канструкцыі «ў рэж». В., што не даходзяць да нізу або да верху даху (усечаныя нізкія шчыты над прычолкам або дымнікі ў верхняй частцы В.), называюцца паўвальмамі. Іл. гл. ў арт. *Страха*. *Ю. А. Якімовіч.*

**«ВАЛЬС»** (франц. valse, ням. Walzer ад walzen кружыцца), гарадскі бытавы танец. Выконваецца парамі. Заснаваны на плаўным кружэнні, што спалучаецца з паступальным рухам. Музычны памер $^{3}/_{4}$, радзей $^{3}/_{8}$, $^{6}/_{8}$. Тэмп ад павольнага да ўмерана хуткага. Паходзіць ад нямецкіх, аўстрыйскіх, чэшскіх нар. танцаў тыпу лендлера. Узнік у 2-й пал. 18 ст., у пач. 19 ст. пашырыўся па ўсёй Еўропе, стаў адным з найбольш папулярных танцаў у розных слаях грамадства. На Беларусі вядомы з 2-й пал. 19 ст., спачатку ўвайшоў у гарадскі, потым у сялянскі побыт пад назвамі «вальс», «вальц», «валец». Існуюць разнастайныя яго варыянты — «В. з падманам», «В. з казой», «В. з кабылай», «В. ламаны» і інш. Сустракаюцца варыянты шматфігурнага В., у якія ўваходзяць танцавальныя рухі з традыцыйных бел. танцаў, можа выконвацца ў кадрылі як асобнае калена. *А. Л. Варламаў.*

**ВАЛЫНЯ́НЕ**, в а л ы н ц ы, старажытная назва насельніцтва Валыні; зямляцкі этнікон. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў». Этымалогія назвы звязана з раней існаваўшым племянным цэнтрам Валынню ці гіст.-геагр. паняццем Валынь. У 8—9 ст. В.— саюз усх.-слав. плямёнаў, генезіс якіх узыходзіць да стараж.-слав. племені *дулебаў;* тэрыторыя расялення — ад вярхоўяў Случы, Буга і Днястра да Берасцейскай зямлі і правабярэжжа Прыпяці. У 10—12 ст. на землях В. існавала Уладзіміра-Валынскае княства, у 1199 утворана Галіцка-Валынскае княства, якое мела ўплыў на Берасцейскую і Турава-Пінскую землі. Пасля 1340-х г. Валынь уключана ў склад Вял. кн. Літоўскага на правах асобнай зямлі. У перыяд развітога і позняга феадалізму В. кансалідаваліся з інш. тэрытарыяльнымі групамі Украіны ў адзіную укр. народнасць, але захоўвалі спецыфічную назву. Працягламу захаванню назвы В. садзейнічалі стабільнае існаванне тапоніма Валынь у якасці афіцыйнай назвы зямлі (Валынскае ваяводства, Валынскае намесніцтва, Валынская губ., Уладзіміра-Валынская вобл.). У 1921—39 В. былі адарваны ад асноўнага этнічнага масіву ўкр. народа і знаходзіліся ў складзе буржуазнай Польшчы. Уз'яднанне і этнічная кансалідацыя В. з родным ім народам Усх. Украіны абумовіла распаўсюджванне ў іх асяроддзі назвы ўкраінцы — асноўнага этноніма ўкр. сав. сацыялістычнай нацыі. Старадаўнія гіст. кантакты, этнагенетычная роднасць і міжэтнічнае ўзаемадзеянне В. з насельніцтвам Беларусі садзейнічалі ўзнікненню ў шырокай вобласці памежжа аднолькавых ці падобных элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, дыялектаў моў і інш. *І. У. Чаквін.*

**ВАЛЮ́ШНАЕ РАМЯСТВО́**, валенне сукна, а таксама выраб галаўных убораў, абутку, гаспадарчых рэчаў з воўны шляхам валення (катання). На Беларусі вядома з даўніх часоў, найбольшае развіццё атрымала ў 19 ст. З валенага сукна звычайна шылі верхняе адзенне — світы, сярмягі, буркі, бурносы, курты і інш. Працэс апрацоўкі валеных вырабаў (*магерак, брылёў, валёнак, лямцу* для конскай збруі) уключаў 4 этапы: закладка вырабу, валенне, фармаванне, аддзелка. Воўну насцілалі на стале на змочаным вадой кавалку палатна (плацік), потым яго скачвалі разам з воўнай у трубку і камячылі рукамі да ўтварэння тонкага пласта (пляйстры). На яго праз палатняную пракладку клалі новы пласт воўны, накрывалі плацікам і зноў камячылі. Потым дасталі пракладку, надавалі пляйстрам форму вырабу, злучалі абодва пласты, аблівалі кіпенем і, для ўшчыльнення, шмат разоў раскочвалі і цёрлі спецыяльнымі качалкамі (*валёк, пруток, рубцы*). Загатоўку насаджвалі на драўляныя калодкі (правідлы, балванкі) для надання патрэбнай формы. Пасля сушкі ў печы выраб на калодцы расчэсвалі жалезнай шчоткай, цёрлі пемзай, абпальвалі ворс. Пры вырабе лямцу этап работы на калодках выключаўся. Шапавальства пераважала ў форме адыходнага промыслу (гл. *Адыходніцтва*). Майстрышапавалы працавалі ў дамах заказчыкаў, пераходзячы з вёскі ў вёску, прычым у час работы яны звычайна карысталіся ўмоўнай мовай (*катрушніцкім лемязенем*). У 19 ст. сваім майстэрствам славіліся дрыбінскія шапавалы Чавускага пав., рамеснікі з в. Кабылёў Рэчыцкага пав. З развіццём капіталістычных адносін і пранікненнем у вёску фабрычных тавараў у 2-й пал. 19 ст. маштабы В. р. паступова скарачаліся. Пачалі выходзіць з ужытку лямцавыя магеркі і брылі, суконныя світы (у пач. 20 ст. яны канчаткова зніклі). Разам з тым вытворчасць валёнак значна пашырылася, іх вырабляюць і ў наш час. *Н. І. Буракоўская.*

**ВАЛЮ́ШНЯ**, в а л ю ш, с у к н а в а л ь н я, вытворчая пабудова для валення сукна, лямцу. Лакальная назва фолюш. Звычайна прамавугольны ў плане 1-павярховы драўляны будынак, накрыты 2-схільным або вальмавым дахам з драніцы, саломы. В. дзейнічалі па прынцыпу вадзянога млына, у якім замест жорнавых паставоў выкарыстоўвалі ступы з таўкачамі, дзе выраблялі сукно. Асноўны рабочы орган — вадзяное кола, якое рухала таўкачы. На Беларусі вядомы з 16 ст. (Нясвіж, г. Давыд-Гарадок Столінскага, в. Леніна Горацкага, Цімкавічы Капыльскага р-наў і інш.), існавалі пераважна ў буйных фальварках, часта належалі мяшчанам. Звычайна будаваліся на рэках, праточных азёрах, балотах, сажалках. У 20 ст. на В., акрамя вадзянога кола, выкарыстоўвалі паравы рухавік і электрапрывод. У вёсках шырока бытавалі ручныя В.— своеасаблівыя станкі (пераносныя на падстаўцы або стацыянарныя на ножках), на якіх валялі сукно. Змочанае ў гарачай вадзе сукно клалі на рабрыстую паверхню і раскатвалі яго рабрыстай дошкай, якую за ручку цягалі 2—4 работнікі. Выйшлі з ужытку В. ў 1930-я г. *Ю. А. Якімовіч, Н. І. Буракоўская.*

**ВАМПІ́Р** (франц. vampire, ням. Vampir), у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. славянскіх народаў — мярцвяк, які ноччу выходзіць з магілы, каб шкодзіць людзям (смактаць кроў, душыць, ірваць на часткі і г. д.). Паводле нар. фантазіі, прыкметныя рысы В.— тоўстыя (раздутыя) губы і тонкі, востры, як змяінае джала, язык. У нар. вераваннях вобраз В.— увасабленне страху прымхлівых людзей перад памерлымі чараўнікамі і чараўніцамі (стараж. славяне нават прыносілі В. ахвяры). Страціў рэлігійнае значэнне ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Уяўленне аб В. адлюстравана ў бел. фальклоры (казках). *М. Ф. Піліпенка.*

**ВАНТРАБЯ́НКА**, традыцыйны мясны выраб. Лакальная назва патрашанка. Адвараныя, дробна нарэзаныя, пасоленыя свіныя вантробы (лёгкія, печань, сэрца, ныркі), а таксама галавізна, прыпраўленыя часнаком, перцам і інш. спецыямі, перамешваюць, кладуць у тоўстыя свіныя кішкі ці страўнік і зноў вараць або падпякаюць у печы. Потым на 1—1,5 сутак прыціскаюць гнётам. Ядуць халоднай. На З Беларусі называюць сальцісонам.

**ВАРАЖБА́**, магічныя спосабы і дзеянні, што нібыта прадракалі будучае і расказвалі пра былое. Узнікла ў першабытным грамадстве разам з ранінмі формамі рэлігіі — верай у звышнатуральныя сілы, добрых і злых духаў, у лёс. Звязана з прыкметамі, значная частка якіх заснавана на жыццёвым і гаспадарчым вопыце, назіраннях за з'явамі прыроды, паводзінамі жывёл (прадказванне вясенняга і летняга надвор'я па надвор'і ў снежні; кот качаецца па зямлі — на цяпло; ластаўкі лятаюць нізка — на дождж). Калі ў В. па прыкметах ёсць пэўнае рацыянальнае зерне (назіранне), дык іншыя яе віды вынікаюць выключна з забабонных уяўленняў; ім уласцівы містычны ха-

рактар, грунтуюцца яны на ўяўным знешнім падабенстве або процілегласці, сугучнасці слоў і інш., напр., разгадванне сноў (бачыць у сне ягады — слёзы, чыстую ваду — радасць, мутную ваду — смутак). З даўніх часоў варажылі па зорках, па лініях далоні, па картах, па вадзе, зернях. Выкарыстоўвалі розныя прадметы (пярсцёнак, люстэрка, замок, чаравік), кукаванне зязюлі, галасы «вешчых» птушак (савы, крумкача, пеўня). Існавалі «прафесіяналы»-адгадвальнікі — варажбіты, знахары, чарадзеі, у Стараж. Русі — вешчуны. Найбольш была пашырана самадзейная В., якая папярэднічала важнейшым гаспадарчым работам, пераменам, што чакаліся ў сям'і, і г. д.

Беларусы найчасцей варажылі на *каляды*, на багатую *куццю* перад Новым годам. В. павінна была вызначыць, чаго можна чакаць у надыходзячым годзе: з-пад каляднага абруса выцягвалі сена і па ім меркавалі, якой даўжыні будзе лён; глядзелі, якога зерня больш у трыбуху заколатага парсюка, такое збожжа будзе найбольш ураддівым. Варажылі і пра замужжа: калі дзяўчына ўпоцемку ў хляве зловіць баранчыка — выйдзе замуж; з якога боку пачуе брэх сабакі — там яе нарачоны; расплаўлены воск ці волава лілі ў ваду і па іх абрысах меркавалі пра суджанага. В. належыць да найбольш жывучых перажыткаў мінулага, хоць у наш час яна ператварылася ў забаву, гульню. Гл. таксама *Магія*.

**ВАРАТО́К**, традыцыйнае прыстасаванне для падцягвання да лодкі невада пры лоўлі рыбы ў адкрытай вадзе; драўляны барабан з воссю, якая ўстаўлялася ў адтуліну стоек, прымацаваных да бартоў лодкі. Лакальная назва ворат. Прыводзіўся ў рух пры дапамозе чатырох ручак, замацаваных у барабане, на якія намотвалася невадная вяроўка. Падобны В., але з дзвюма сагнутымі ручкамі ў тарцы барабана, выкарыстоўвацца для выцягвання вядра з калодзежа. *І. М. Браім.*

**ВАРАЦІ́ЛА**, назва *навоя*, пашыраная на Пд Беларусі. Лакальная назва варатыла.

**ВАРВА́РА**, прысвятак у *народным календары*, дзень хрысціянскай пакутніцы (адзначаўся 4 снежня с. ст.), які лічыўся ў народзе жаночым святам. На В. забаранялася прасці кудзелю; у гэты дзень выпякалі вылепленыя з пшанічнага цеста галовы, рогі, капыты, вушы і імі кармілі хатнюю жывёлу, каб яна добра вялася. Пасля В. дзень паступова пачынаў расці («Варвара ночы ўварвала, а дня прытачыла»). Добрае надвор'е на В. прадракала добры ўраджай ільну на наступнае лета. *У. А. Васілевіч.*

**ВАРГА́Н** (відаць, ад стараслав. варгі — вусны), народны самагучны язычковы музычны інструмент. Лакальныя назвы варганіца, вурган. Падкованападобны жалезны В. мае паралельна падоўжаныя канцы, паміж імі праходзіць прымацаваны пасярэдзіне галоўкі язычок (тонкая стальная пласцінка з загнутым канцом). У час ігры В. заціскалі зубамі або прыціскалі да іх. Рот выконваў ролю натуральнага рухомага рэзанатара. Язычок зашчыпвалі ўказальным пальцам правай рукі. У выніку бесперапыннай вібрацыі язычка ўзнікаў бурдон (гук нязменнай вышыні, які цягнецца бесперапынна). Невялікі дыяпазон В. абмяжоўваў рэпертуар музыкантаў простымі песеннымі і танцавальнымі мелодыямі. Найбольш раннія звесткі пра В. на тэр. Беларусі адносяцца да 12 ст. (археалагічная знаходка ў Друцку), верагодна, быў найбольш пашыраны на ПнУ. У муз. практыцы беларусаў яшчэ ў 19 ст. В. выкарыстоўваўся як сольны і ансамблевы інструмент. У наш час не сустракаецца. *І. Дз. Назіна.*



**Вараток.**



**Варган.** 12 ст.

**ВАРО́ТЫ**, лёгкія з гарызантальных жэрдак кратаваныя рамы на лазовых, вяровачных ці металічных петлях у сцяне, плоце для праезду на загуменне. Пры адсутнасці *брамы* В. маглі быць і для ўезду ў двор з вуліцы. В. ў хлеў, гумно, клуню, пуню, стайню рабілі з дошак глухімі.



**Вароты.** Горад Ветка.

**ВАРШТА́Т** с т а л я р н ы, в я р с т а к, с т а л ю г а, прыстасаванне для сталярных работ — апрацоўкі дошак, брускоў, бандарных клёпак і інш. Лакальная назва кабыла. У мінулым В. уяўляў сабой услон з клямарам, у які заціскалася драўляная форма, што апрацоўвалася пры дапамозе *струга*, *гэбля* і інш. дрэваапрацоўчых інструментаў. У рабочым стане майстар садзіўся на В., заціскаў рычаг клямараў нагою. Часам В. рабілі з натуральнага ствала дрэва з каранёвымі адросткамі, што служылі ножкамі. Больш сучасны В. разлічаны для работы стоячы і ўяўляе сабой масіўную пляцоўку з клямарамі (драўляныя пласціны, што ставяць з абодвух бакоў В.), што заціскаюцца пры дапамозе шрубы. На ім часам замацоўваюць ціскі для слясарных работ. *В. С. Цітоў.*

**ВАРШТА́Т** т к а ц к і, 1) механічны ткацкі стан, які выкарыстоўваўся ў месцах развіцця саматужных промыслаў, а таксама ў ткацкіх школах-майстэрнях, пашыраных на Беларусі ў 2-й пал. 19 ст. 2) Удасканалены ткацкі стан для *красён*, аснашчаны дэталямі механічнага ткацкага стана: зубчатымі коламі на навоях, дадатковым навоем для гатовай тканіны і інш. Быў распаўсюджаны па ўсёй Беларусі. Часам В. называлі звычайныя кросны.

**ВАРЫВА**, 1) вараная рэдкая страва. 2) Квашаная гародніна. Каб захаваць гародніну на доўгі час, спажываць зімой і вясной, яе квасілі, пазней — салілі. Капусту квасілі сечаную, качанамі, палавінкамі (палюткамі), з вадою без солі і з соллю без вады. Буракі таксама квасілі. В. складалі ў бочкі (варыўныя), якія ставілі ў варыўню ці склеп. Спажывалі В. сырым ці гатавалі з яго гарачыя стравы. Назва В. захавалася ў Цэнтр. і Усх. Палессі; у зах. раёнах Беларусі В. называюць свежую гародніну. *Г. Ф. Вештарт.*

**ВАРЫЎНЯ́**, с т о п к а, і с т о п к а, старадаўняя гаспадарчая пабудова зрубнай канструкцыі для захоўвання бульбы, гародніны, садавіны, малака і інш. харчовых прыпасаў. Лакальная назва сцёпка. У В. трымалі невялікія гаспадарчыя прылады. Сцены імшаныя, без вокан або з маленькай, у адно-два

бервяны адтулінай, якая закрывалася засаўкай. Ставілі В. асобна ці ў агульным комплексе гаспадарчых пабудоў. У вялікія маразы абагравалася печкай-каменкай ці жарам. Найбольшае пашырэнне на Беларусі мела ў тых раёнах, дзе ўзровень грунтавых вод не даваў магчымасці будаваць склеп (Віцебшчына, Палессе і інш.). Пры неабходнасці В. пераабсталёўвалася ў жылое памяшканне. *У. С. Гуркоў.*

**ВАРЭ́НІКІ,** мучная страва. У замешанае на вадзе ці малацэ крутое цеста з пшанічнай, жытняй або грэцкай мукі загортваюць тварог, ягады, садавіну, мак або канапляное семя. Вараць у падсоленым кіпені. Падаюць са смятанай або маслам. На святы Варвары, Міколы варылі В. з семем і макам. Былі распаўсюджаны на Пд Беларусі і на Украіне. У наш час вядомы паўсюдна.

**ВАСІЛЕ́ВІЧ** Уладзімір Аляксандравіч (н. 9.1.1952, Мінск), беларускі савецкі фалькларыст і літаратуразнавец. Канд. філал. навук (1979). Скончыў БДУ (1974). З 1974 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1981 старшы навуковы супрацоўнік). Працуе ў галіне бел. фалькларыстыкі. Аўтар даследавання «Усходнеславянская гумарыстычная песня» (1979), складальнік кнігі «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні» (1986).

**ВАСІЛЕ́ЎСКІ** (Wasilewski) Леан (24.8.1870, Пецярбург — 10.12.1936), польскі публіцыст, гісторык, дзеяч правага крыла Польскай сацыялістычнай партыі. У 1918—19 міністр замежных спраў Польшчы, з 1924 узначальваў Ін-т вывучэння навейшай польскай гісторыі, з 1931 — Ін-т нацыянальных спраў, рэдактар час. «Niepodległość» («Незалежнасць»). У 1897 у штогодніку «Materiały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne» («Матэрыялы антрапалагічна-археалагічныя і этнаграфічныя», т. 2) апублікаваў «Беларускія загадкі» (128 загадак, сабраных ім у Вілейскім, Лепельскім, Дынабургскім, Барысаўскім і Рагачоўскім пав.), у якіх адлюстраваны разнастайныя з'явы прыроды, дзейнасць чалавека і яго побыт. Да большасці загадак даюцца адказы. Аўтар прац «Літва і яе наро-



Вароты. Вёска Мядзвецк Чашніцкага раёна.



Вароты. Горад Хойнікі.



Сталюга (**варштат** сталярны) для сталярных і бандарных работ. Вёска Картынічы Лельчыцкага раёна.



**Варштат** для апрацоўкі бандарнай клепкі. Вёска Стадолічы Лельчыцкага раёна.



**Варштат** сталярны.

ды» (Варшава, 1907), «Літва і Беларусь» (Кракаў, 1912), у якіх даследаваў развіццё культуры і асветы, гісторыю беларускага і літоўскага нацыянальна-вызваленчага руху 19 — пач. 20 ст., адзначаў працэс беларусізацыі прыгранічнага літоўскага насельніцтва. Пасля ўтварэння буржуазнай Польшчы выступаў супраць бел. і ўкр. нацыянальна-вызваленчага руху, падтрымліваў афіцыйны курс польскіх улад у нац. пытанні. *А. Ф. Літвіновіч.*

**ВАСІЛЬЕВА** Анастасія Якаўлеўна, беларускі этнограф, фалькларыст і краязнавец 2-й пал. 19 ст. У 1874—80 жыла на Палессі, некаторы час працавала валасным пісарам у в. Грабаў (Петрыкаўскі р-н). З 1880 у Бабруйску. Даследавала побыт, матэрыяльную культуру, абрады, фальклор сялян, вывучала гісторыю і этнаграфію вёсак Мазыршчыны. Артыкулы «Вясельныя абрады ў раёне Грабаўскай воласці Мазырскага павета», «Кароткі нарыс вёскі Грабава Мазырскага павета», «Сялянскія памінкі ў Мазырскім павеце», «Князь», ці «Жыд-возера» (Легенды) (усе 1877), «Калядныя святы ў сялян Мазырскага павета», «Нататка пра абшчыннае земляробства ў сялян Мінскай губерні», «Нататка, як праводзяць вясну сяляне Мінскай губерні», «Веснавыя песні і абрады ў вёсках Мазырскага павета» (усе 1878), «Легенды і павер'і ў Мінскай губерні», «Нататка пра побыт сялян Мазырскага павета», «Вёска Бяседкі Мазырскага павета» (усе 1879). надрукаваны ў «Минских губернских ведомостях», «Ярмаркі ў Мазырскім павеце» (1879), «Знахары», «Вытрымкі з жыцця беларускай жанчыны» (1880), «Вёска Грабаў» (1881) і інш.— у «Виленском вестнике». Супрацоўнічала з Мінскім губ. статыстычным камітэтам, Т-вам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це, П. В. Шэйнам і інш. Крытычна ставілася да прыгоннага права, захаплялася нар. майстэрствам, выступала за развіццё асветы, раўнапраўе жанчын і інш. *А. Ю. Лозка.*

**ВАСКАБО́ЙНЯ**, майстэрня па прыгатаванню воску. На Беларусі вядома з 16 ст. Невялікае збудаванне, звычайна драўлянае, з цаглянай або каменнай печчу, у якую ўмуроўваўся кацёл для плаўлення воску. Расплаўлены воск па спецыяльным латку выцякаў у разнастайныя формы. В. часта згадваліся ў прывілеях гарадам на магдэбургскае права. Паводле дакументаў 16—18 ст., В. існавалі ў Полацку, Мінску, Оршы, Слуцку і інш. гарадах; былі яны і ў мястэчках, фальварках, манастырах.

**ВАТ**, традыцыйная рыбалоўная снасць; сеткавы мяшок, прымацаваны да квадратнай рамы. Выкарыстоўваўся ў час веснавога разліву, калі ў плацінах вадзяных млыноў адкрывалі адтуліны, каб аслабіць напор вады. В. на вяроўках апускалі пад струмень, разам з якім у сеткавы мяшок трапляла рыба. Найбольш вядомы на Палессі.

**ВАЎКАВЫ́СКА-КАМЯНЕ́ЦКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Панямонні; бытаваў у асяроддзі сялян і дробнай шляхты ў Ваўкавыскім, Пружанскім і Камянецкім р-нах. Гарнітур жаночага летняга адзення складаўся з кашулі, спадніцы, фартуха, гарсэта (неабавязковая частка гарнітура), пояса, галаўных убораў і ўпрыгожанняў. Кашуля мела глыбокі разрэз пазухі і высокі стаячаадкладны каўнер. Удоўж рукавоў і па цэнтры кашулі чырвонымі або чырвона-чорнымі ніткамі (горынь) вышывалі раслінныя, заамарфныя і геаметрычныя ўзоры. Сакавітасцю бурачковых, малінавых, фіялетава-сініх фарбаў, арнаментальнай узорыстасцю нізу вылучаліся спадніцы-андаракі з вертыкальнымі складкамі. Арнамент яркіх кантрастных паскаў і клетак дапаўняўся разнаколернымі пальметамі (зоркамі, кветкамі), раскіданымі ўздоўж ніжняй дамінуючай палосы шляка. Фартух шылі з адной (радзей дзвюх) полак белай ільняной тканіны ці паркалю, аздаблялі фальбонамі, вышыўкай працягам або гладдзю геаметрычнага ці расліннага арнаменту. Гарсэт шылі з чорнай шарсцянкі, аздаблялі паліхромнай вышыўкай расліннага арнаменту, каляровай аблямоўкай зрэзаў верхняга крыса, праймы і гарлавіны. Традыцыйныя галаўныя ўборы (наміткі, чапцы, каптуры) шылі з чырвонага ці сіняга паркалю, шарсцянкі або бардовага атласу, аздаблялі тасёмкай бліскучага жоўтага галуну і гафрыраваным паскам белага цюлю. Дзяўчаты завязвалі разнаколерныя хусткі, да якіх з левага боку мацавалі букецік жывых або штучных кветак. Шыю ўпрыгожвалі бісернымі пацеркамі, стужкамі, рукі — пярсцёнкамі-жуковінамі. Аснову мужчынскага летняга адзення складалі кашуля, нагавіцы, даматканы разнаколерны пояс. Кашулю з адкладным каўняром сціпла аздаблялі чырвонай вышыўкай на каўняры і падоле. Нагавіцы шылі з суравога палатна або з пярэстай (у клеткі, паскі) паўшарсцянкі. Мужчынскае і жаночае верхняе адзенне складалі світы-сярмягі, курткі, кажухі і інш. Адмысловасцю крою і апрацоўкі вызначаліся фалдзістыя світы, сярмягі з адразной лініяй таліі. Удала спалучаліся з кроем дэкаратыўныя складкі, нашыўкі чорнага аксаміту, узоры раслін, спіралей, простых ліній. *М. Ф. Раманюк.*





**Ваўкавыска-Камянецкі строй.** Фрагмент андарачнай тканіны. Вёска Новы Двор Свіслацкага раёна.

Жанчыны ў летнім адзенні. Вёска Міхалаева Камянецкага раёна.



Ват.

**ВАЎКАЛА́К** (ад стараслав. влъкъ — воўк, длакъ — поўсць), вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. славянскіх народаў, *пярэварацень,* чала-

век, які дзівосным спосабам набыў на некаторы час аблічча воўка. Уяўлялі, што ў адрозненне ад звычайнага воўка В. больш высокага росту, з вялікай галавой, чатырма вачыма (2 на лбе, 2 на патыліцы); ён нібыта бачыць з усіх бакоў, вые не па-воўчаму, а стогне і плача, як чалавек. Паводле паданняў В. дзялілі на 2 групы. Да адной адносілі фантастычных істот, у якія быццам пертварал людзей чараўнікі пры дапамозе замовы ці інш. магічных дзеянняў. Гэтыя В. нібыта вандравалі групамі, харчаваліся травою і карэннямі, не шкодзілі людзям, іх лічылі ахвярамі чараўніка. Да другой групы адносілі В., у якіх нібыта пертвараліся самі чараўнікі, каб шкодзіць людзям. Яны быццам бы смакталі кроў людзей (гэтым падобны на вампіра). Вобразы В. адлюстроўвалі фантастычныя ўяўленні людзей пра звышнатуральныя ўласцівасці чараўнікоў. Генетычна вобраз В. звязаны з *татэмізмам*, татэмічнымі абрадамі пераапранання ў шкуры татэмных жывёл, якім пакланяліся (у адной з этнагр. груп укр. этнасу — гуцулаў — у мінулым спраўлялі воўчае свята); пра гэта сведчыць таксама ўяўленне, што людзі пертвараліся ў В. толькі на пэўны час, а потым зноў прымалі першапачатковае аблічча. У паданнях беларусаў чараўнікі пертваралі ў В. часцей за ўсё вясельныя групы, якія ў далёкім мінулым азначалі родавыя групы, а род быў сацыяльнай асновай татэмізму. На больш позніх стадыях развіцця грамадства гэты татэмічны абрад пераапранання пераасэнсаваны як магічнае дзеянне чараўніка. У капіталістычную эпоху вобраз В. страціў рэлігійнае значэнне і захаваўся ў фальклоры як безрэлігійны фантастычны персанаж.

*М. Ф. Піліпенка.*

**ВАЎКАЎНЯ́**, пастка для лоўлі ваўкоў; нерухомае лоўчае збудаванне з забітых у зямлю і пераплеценых лазою трохметровых жэрдак. Лакальная назва ваўкоўня. На Міншчыне мела форму круга з крыламі, што накіроўвалі ў В. Уваход прыкрывалі дзверцы, якія свабодна адчыняліся ў сярэдзіну і ўтрымлівалі звера ў пастцы. Калі звер ішоў па вузкім праходзе паміж скрынкай з прынадай і сценкай В., ён сам зачыняў іх. Больш стараж. тып В. нагадваў у плане вялізнага слімака. Завостраныя гнуткія дубовыя спіцы (оспы) у сценцы спіралепадобнага праходу прапускалі драпежніка свабодна ўперад і ўтыкаліся ў тулава, калі ён спрабаваў адступацца назад. На Палессі сустракаўся тып В.— трайня (трызуб) — вертыкальна прымацаваная на невялікай адлегласці да дрэва дошка-сарако́ўка з трыма зубамі і звужанымі ўніз пазамі паміж імі. Пры спробе сарваць падвешаную зверху прынаду воўк зашчамляў лапу і павісаў на трайні. *С. Ф. Цярохін.*

**ВАЎНАЧО́СКА**, часалка, прыстасаванне для рыхлення і часання воўны. Паводле спосабу прывядзення ў дзеянне падзяляліся на вадзяныя (пры млынах, пераважалі ў мястэчках і гарадах), конныя і ручныя (у буйных вёсках). Прынцып іх работы быў амаль аднолькавы: воўну клалі на рашотку з лучыны, адкуль яна пры дапамозе палатнянага транспарцёра падавалася на барабан і сістэму валкоў, абцягнутых мешкавінай з драцянымі шчоткамі. Праходзячы праз валкі, воўна расчэсвалася і трапляла на барабан, адкуль яе здымалі ў выглядзе кудзелі. У наш час выкарыстоўваюцца В. з электрычным прывадам. *Н. І. Буракоўская.*

**ВЕЛІКО́ДНЫ ПІРО́Г**, гл. ў арт. *Абрадавае печыва.*




**Ваўкоўні:** 1 — у форме круга з крыламі; 2 — тыпу слімака; 3 — трайня.

**ВЕ́НА** (ад лац. venum продаж), у старажытных славянскіх і некаторых інш. народаў Еўропы выкуп жаніха за выкраданне нявесты ці загадзя абумоўленая плата яе бацькам або сваякам. Памеры яго былі даволі значнымі. На Русі, акрамя таго, В. плацілі бацькі нявесты грамадзе і феадалу. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» (пач. 12 ст.). З эвалюцыяй сямейных адносін пераўтварылася ў сімвалічны абрад, а сам тэрмін «В.» атрымаў значэнне *пасагу*, які бацькі давалі за нявестай. Узнікшая як звычай, В. з цягам часу была заканадаўча замацавана ў феадальным праве. Статут Вял. кн. Літоўскага 1588 разглядаў В. як умову для заключэння шлюбу і спосаб забеспячэння маёмасных інтарэсаў жонкі на выпадак яе ўдаўства. На Беларусі нормы гэтага права дзейнічалі да 1840.

*Г. А. Маслыка.*

**«ВЕНГЕ́РКА»**, гарадскі бытавы танец. Лакальныя назвы «Сямёрка», «Сто адзін». З'явіўся ў канцы 19 ст. ў выніку трансфармацыі асобных нацыянальных танцаў інш. народаў у нар.-бытавыя бел. варыянты. Танец апісаны ў самавучыцелі М. Гаўлікоўскім. Напачатку быў распаўсюджаны сярод гарадскіх жыхароў, потым у яшчэ больш змененым выглядзе пашырыўся ў вёсцы. Музычны памер $^2/_4$, $^4/_4$. Тэмп хуткі. У «В.» разам з агульнараспаўсюджанымі рухамі выкарыстоўваюцца элементы венгерскага нар. танца (часам стылізаваныя): падскокванні на адной назе з прасоўваннем прама і ў павароце, саскокі на дзве нагі, венгерскі ключ і інш. Танец суправаджаецца своеасаблівай прыпеўкай: «Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем», «Сто адзін» — «50, 20, 40, 11 — гэта будзе 101». Ад гэтых прыпевак атрымаў дадатковыя назвы. Распаўсюджаны па ўсёй Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*

**ВЕ́НЦЕР**, жак, сеткавы мяшок (куль) на абручах з адной або дзвюма перагародкамі (горламі) унутры; традыцыйная рыбалоўная снасць. Рыба заплывала ў куль праз адтуліну ў горле. Да мяшка пры ўваходзе прывязвалі адно (аднакрылы В.) ці два (двухкры-

лы В.) сеткавыя крылы (нацягнутыя па вертыкалі на драўляныя планкі), што перагароджвалі шлях рыбе і накіроўвалі яе ў куль. У глухім канцы куль сцягваўся шнурком. В. устанаўліваўся ў вадаёме пры дапамозе калкоў. Аднакрылымі В. лавілі рыбу пераважна ў азёрах, двухкрылымі — па цячэнню. Вядомы па ўсёй Беларусі. *І. М. Браім.*

**«ВЕРАБЕЙ»**, традыцыйны танец. Мае шмат карагодных варыянтаў, з якімі цесна звязаны (кругавая пабудова, імітацыя рухаў вераб'я, суправаджэнне прыпеўкамі). Складаецца з 2 частак: 1-я ва ўмераным тэмпе, музычны памер 3-дольны, 2-я — у хуткім тэмпе, музычны памер $^2/_4$. Нярэдка выконваўся на вяселлях. П. Шэйн апісаў варыянт, які ён убачыў на Магілёўшчыне: «Вераб'я» танцавалі ў некалькі пар так: танцуючыя склалі круг, унутры якога хадзілі дзяўчаты, звонку — хлопцы, спачатку рухаліся ў адзін бок, ціха, прагульваючыся, а потым, калі музыка рабілася больш жвавай, усе пары вакол паварочваліся і пачыналі падскокваць весялей...» (Шэйн П. В. Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю. Спб., 1887. Т. 1, ч. 1. С. 544). Танец суправаджаўся песняй:



Верацёны.

Чы-чы, чы-чы, верабей,
Не клюй маіх канапель,—
А я таму вераб'ю
Калом ногі пераб'ю.
Верабейка скача,
Па ножцы плача.

Танец быў распаўсюджаны ў Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцях. *Ю. М. Чурко.*

**ВЕРА́НДА** (англ. veranda ад інд.), адкрытая або закрытая прыбудова да дома з боку ўваходных дзвярэй. Гістарычна развілася з *ганка*. З'яўлялася дадатковым гасп. памяшканнем. Часта выкарыстоўваецца як летняя кухня, часам у В. адгароджваецца кладоўка. В. спарадычна сустракаліся ў вясковым будаўніцтве з 19 ст. ў заможных сялян. Значнае пашырэнне атрымалі ў пасляваенны час. Найбольш тыповыя — зашклёныя В. памерам 10—15 м². Некаторыя хаты маюць па 2 В.: на вуліцу і панадворак. Ніжняя частка каркаса В. ашалёўваецца дошкамі, фарбуецца, верхняя, як правіла, зашклёная. Многія В. аздоблены разьбой, вітражамі, з'яўляюцца сапраўднымі творамі мастацтва. У наш час В. бытуюць па ўсёй Беларусі, але найбольш пашыраны на ПдУ рэспублікі і ў садова-дачным будаўніцтве. *У. С. Гуркоў.*

**ВЕРАЦЯНО́**, прылада для ручнога прадзення лёну, воўны, пянькі. У стараж. часы В. служыла драўляная крыху завостраная палачка, пазней — конусападобная палачка даўжынёй 20—30 см з завостраным верхам, патоўшчаным нізам, на які для павелічэння вагі надзявалі *прасліца*, і вострай пяткай. В. выстругвалі нажом або вытачвалі з бярозы, ясеню, грушы і інш. На вытачаных В. дзеля зручнасці і як аздабленне наразалі кольцы-паглыбленні.

**ВЕРАШЧА́КА**, традыцыйная страва, род мачання да *бліноў*. Абавязковыя кампаненты В.— кавалачкі свінога сала і мяса, свіная рабрына, кавалкі каўбасы, духмяныя прыправы. В. заўсёды падкалочваецца мукой. Мае розныя варыянты прыгатавання: сала, каўбаса, рабрына падсмажваюцца на патэльні, потым туды ўліваецца падкалота (мука, рэдка разведзеная вадой), дадаюцца духмяныя прыправы, усё разам варыцца або пячэцца ў печы (Лагойшчына, Магілёўшчына, Тураўшчына); сала, каўбаса і інш. вараццa, потым страва падкалочваецца мукой, часам папярэдне падсмажанай (Гродзеншчына, Цэнтр. і Усх. Палессе). В. рабілі на бурачным або хлебным квасе (Вілейшчына, некаторыя раёны Гродзеншчыны). Часта была святочнай стравай. У некаторых раёнах Зах. Палесся з салам, рабрынаю, каўбасою варылася *юшка* (мукой не падкалочвалася), якая спажывалася на першае як рэдкая страва, а В. называлі вараную свежыну (пячонку, сала, мяса) у той



**Венцер** двухкрылы.



**Веранда.** Вёска Галошава Талачынскага раёна.

вечар, як заб'юць парсюка. Тады сама вячэра называлася В. У наш час В. пашырана па ўсёй Беларусі пад назвай мачанка. *Г. Ф. Вештарт.*

**ВЕРБНІЦА,** апошняя нядзеля перад *вялікаднём.* У некаторых мясцовасцях пашырана назва вербная нядзеля. На В. паўсюдна асвячалі ў царкве галінкі вярбы, якімі ў гэты дзень сцябалі адзін аднаго (дзяўчына, сцябаючы незнаёмага хлопца, пыталася ў яго імя, жадаючы даведацца пра імя свайго будучага мужа). Асвячонай вярбе надаваліся магічныя ўласцівасці, таму яе доўга захоўвалі ў хаце: ёю выганялі на першы выпас жывёлу; існавала павер'е, што, з'еўшы 9 пупышак, можна засцерагчыся ад зубнога болю і ліхаманкі. Аздобленыя каляровымі засушанымі кветкамі, травамі, каласкамі, мохам галінкі вярбы («пальмы віленскія») імітавалі пальмы, з якімі народ сустракаў Хрыста пры яго ўездзе ў Іерусалім (гэта хрысціянскае свята было прымеркавана да В.). «Пальмамі віленскімі» ўпрыгожвалі дом, а таксама клалі іх на магілы блізкіх людзей. Паводле нар. назіранняў маразы-вербічы на перадвелікодным тыдні неабходны менавіта ў гэты час, каб не было больш позніх маразоў, якія могуць пашкодзіць сяўбе і ўсходам яравой збажыны. *У. А. Васілевіч.*

**ВЕ́РНІК,** 1) адзін з каляднікаў, якому даручалі насіць сабраныя ў час *калядавання* пачастункі. 2) Вартаўнік-прыёмшчык у рыбацкай арцелі для аховы рыбы. Назначаў яго ўладальнік промыслу.

**ВЕРХАЎЛЯ́НСКАЕ СВЯЦІЛІШЧА,** В е р х а ў л я н ы, этнаграфічны аб'ект і, верагодна, помнік язычніцкага культу каля в. Верхаўляны Бераставіцкага р-на. Аналагічны свяцілішчам, выяўленым на Смаленшчыне і ў Паўн. Букавіне (служылі месцамі маленняў, ахвярапрынашэнняў і адначасова грамадскімі цэнтрамі акругі). Уяўляе сабой узгорак з круглай пляцоўкай (дыяметрам каля 7 м), акружанай ровам (глыбіня 1,5—2 м) і валам (вышыня 3—7 м), уваход з З. Пры раскопках у рове выяўлена каменная вybрукоўка, перакрытая культурным пластам з касцямі жывёл і вуголлем, пад ёй — ранняя кераміка (зробленая на ганчарным крузе), што дазваляе аднесці помнік да эпохі Стараж. Русі. На пляцоўцы (на глыбіні каля 0,2 м) таксама выяўлена вуголле і абломкі ранняй керамікі. Магчыма, на пляцоўцы ў старажытнасці размяшчаўся ідал або ахвярнік, роў таксама меў рытуальнае значэнне — тут гарэлі вогнішчы. Помнік адкрыты Ф. П. Пакроўскім у канцы 19 ст., раскопкі вёў Э. М. Зайкоўскі ў 1986. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ВЕРХНЕДНЯПРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУРА,** археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў канцы 5-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. насялялі тэрыторыю Паўд.-Усх. Беларусі ў басейне Дняпра па ПнУ ад вусцяў Бярэзіны і Іпуці. Насельніцтва займалася паляваннем, збіральніцтвам і рыбалоўствам. Паселішчы плошчай ад 50 да 10 000 м$^2$ размяшчаліся на дзюнных узгорках або на краі надпоймавых тэрас. На паселішчах знойдзены прылады працы з крэменю, сярод іх — скрабкі, разцы, сякеры, наканечнікі стрэл, нажы, праколкі і інш. Жытлы драўляныя, наземныя, на 0,2 — 0,8 м заглыбленыя ў зямлю, авальнай або круглай формы, сярэдні памер 3,5×3 м, будаваліся звычайна па адной лініі. У цэнтры іх знаходзіліся агнішчы, ямы-паграбы глыбінёй да 1 м. Каля жытлаў размяшчаліся гаспадарчыя ямы, агнішчы, месцы апрацоўкі крэменю і вырабу керамічнага посуду. На раннім этапе выраблялі таўстасценны вастрадонны посуд з прамым венчыкам (у гліну дабаўлялі раслінныя дамешкі і тоўчаны кварц). Часам усю паверхню пасудзін упрыгожвалі арнаментам у выглядзе глыбокіх прадаўгаватых ямак або глыбокіх адбіткаў буйнога грэбеня, размешчаных радамі ці ў шахматным парадку. Пазней пaявіліся шыракагорлыя пасудзіны вышынёй да 0,5 м, дыяметрам да 0,4 м з вострым, радзей круглым дном. Побач з прадаўгаватымі, пукатымі з адагнутымі венчыкамі выраблялiся прамасценныя і невысокія акруглыя пасудзіны вышынёй да 0,1—0,15 м, дыяметрам да 0,25 м. У гліну дабаўлялі пясок, дробны кварц, радзей раслінныя рэшткі. Унутраную паверхню часта загладжвалі зубчастым штампам. Характэрная асаблівасць В. к.— наяўнасць у некаторых пасудзін (магчыма, рытуальных) арнаментацыі на ўнутранай паверхні днішчаў і венчыкаў. Асноўнымі элементамі арнаменту былі адбіткі грабеньчатага штампа, разнастайныя ўмяціны (акруглыя, прадаўгаватыя, трохвугольныя, серпа-, ромбападобныя і інш. ямкі), лапчастыя наколы, нарэзкі, насечкі і інш., якія ўтваралі дыяганальныя, гарызантальныя, зігзагападобныя рады, вертыкальныя кампазіцыі, паясы з павернутых вяршыняй уніз трохвугольнікаў, ромбаў і інш. Часам пад венчыкам упрыгожвалі адбіткам шнура або сістэмай гарызантальных паясоў, утвораных дробнымі наколамі. *А. Г. Калечыц.*

**ВЕРХНЯДЗВІ́НСКАЕ ТКА́ЦТВА,** народнае традыцыйнае ручное ўзорыстае ткацтва. Вядома з даўніх часоў (у літаратуры з 19 ст.) на тэр. Верхнядзвінскага р-на (ткалі посцілкі, дываны, ручнікі). Асаблівасцю В. т. з'яўляецца традыцыйнае спалучэнне 2 колераў: чорнага з малінавым, чорнага з белым, чорнага з чырвоным, чорнага з аранжавым. Разнастайнасць дасягаецца ўзбуйненнем або змяншэннем асобных матываў, рознымі перапляценнямі нітак пры захаванні адзінага кампазіцыйнага ладу, агульнага для тканін розных раёнаў Віцебскай вобл. Тэхніка — перабор, шматрамізная, выбарная. Узоры — «у дымкі», «у ромбы», «у кругі» і г. д. У наш час ткачыхі аб'яднаны ў арцелі. У 1967 пры Верхнядзвінскай ф-цы маст. вырабаў адкрыты цэх маст. ткацтва, дзе ткуць ручнікі, посцілкі, накідкі на крэслы ў традыцыйных колерах з бел. арнаментам. Матэрыял — лён, віскоза, воўна; з чароту робяць сурвэткі, сумкі. *Дз. С. Трызна.*



**Верхнядзвінскае ткацтва.** Посцілка. Лён, віскоза. 1970-я г.

**«ВЕРЧ»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$, тэмп хуткі. Сваю назву атрымаў з-за шматлікіх хуткіх кручэнняў, што выконваюцца парамі або

толькі дзяўчатамі. Хлопцы ў момант кручэння дзяўчат моцна тупаюць. Аднachасова ўсе рухаюцца па крузе. Вядомы варыянт «В.», што выконваецца ў 2 пары, якія мяняюцца па ўмоўнай васьмёрцы. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Лельчыцкім р-не Гомельскай вобласці. *А. Л. Варламаў.*

**ВЕРШАЛІ́НА,** сукаватка, старажытная цяглавая прылада для апрацоўкі глебы; найбольш архаічны тып *бараны*. Лакальная назва астрога. Рабілі з верхавіны елкі, сукі якой абсякалі на адлегласці 40—60 см ад ствала і завострывалі іх. За больш тонкі канец мацавалі пастронкі. В. цягнуў звычайна адзін конь ці вол. Ужываліся на падсечным (агнявым) земляробстве. На лясных лядах, дзе заставалася шмат пнёў і каранёў, В. была асноўнай земляробчай прыладай, што сумяшчала ў сабе функцыі бараны і сахі. У сельскагаспадарчай практыцы беларусаў эпізадычна сустракаліся ў сярэдняй паласе Беларусі і на Усх. Палессі да пач. 20 ст. *В. С. Цітоў.*

**ВЕ́СНІЦЫ,** брамка, фортка, лёгкія, часцей кратаваныя дзверцы для ўваходу з вуліцы ў двор ці са двара на агарод, у сад. В. праразаюцца непасрэдна ў *варотах* ці будуюцца побач з імі. На У Беларусі, дзе найб. пашыраны глухія брамы, В. робяць са шчыльна збітых дошак, часта аздабляюць разьбой, размалёўкай, фігурнымі завесамі і клямкамі. На астатняй тэр. Беларусі пераважаюць лёгкія В. са штыкетніку. *У. С. Гуркоў.*

**ВЕ́ТКАЎСКАЯ РАЗЬБА́,** архітэктурны дэкор, пашыраны ў г. Ветка і навакольных вёсках. Традыцыі занесены перасяленцамі з Цэнтр. Расіі ў 17—18 ст. В. р.— своеасаблівае спалучэнне мясцовых бел. і рускіх традыцый нар. архітэктурнага дэкору. У 18—19 ст. ліштвы акон драўлянага жылля аздаблялі нескладанай выемчатай разьбой геаметрычнага характару. У 2-й пал. 19 ст. пад уплывам стылю класіцызму будынкі набылі дэкор у выглядзе накладных рэечак, ромбаў, прамавугольнікаў. Ліштвы рабілі ў выглядзе трохвугольнага франтончыка з прафіляванымі накладкамі, дэкор карнізаў і вуглоў імітаваў элементы муравапай архітэктуры класіцызму. З канца 19 ст. пашырыўся прапілаваны дэкор раслліннага характару, якім багата аздабляюць ліштвы, карнізы, ганкі, вароты, а ў наш час — веранды, мансарды, франтоны. Разьбу часта дапаўняюць паліхромнай расфарбоўкай. В. р. адметная павышанай дэкаратыўнасцю, перавагай стылізаваных раслінных матываў, шматпланавасцю кампазіцый. *Я. М. Сахута.*

**ВЕ́ТКАЎСКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ ТВО́РЧАСЦІ.** Створаны ў 1978 на базе калекцыі Ф. Г. Шклярова. Больш за 2,2 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988), якія характарызуюць нар. культуру і побыт, традыцыйнае мастацтва і мастацкія промыслы рэгіёна. Экспануюцца археалагічная калекцыя, творы бел. нар. ткацтва сярэдзіны 19 ст.— 1980-х г.: *неглюбскія ручнікі*, жаночае адзенне і тканае ўбранства хаты (абрусы, насценныя дыванкі, дэкаратыўныя пано, палавікі і інш.), вышыўка, жывапіс, кераміка. Шырока прадстаўлены старадаўнія мясцовыя маст. рамёствы: разьба па дрэве (скульптура, мэбля, посуд і інш. прадметы ўжытку; гл. таксама *Веткаўская разьба*), салома- і лозапляценне. Сярод экспанатаў калекцыя меднага посуду і самавараў, якары і інш. прадметы з металу. Сабрана вялікая колькасць рукапісных (16—19 ст.) і друкаваных кніг, сярод якіх бел. старадрукі 16—18 ст., калекцыя абразоў канца 17 — пач. 20 ст., выкананых мясцовымі майстрамі, абкладаў для кніг і абразоў, аздобленых чаканкай, вышыўкай бісерам, разьбой па дрэве з залачэннем і ляўкасам. *Г. Р. Нячаева.*



**Весніцы.** Вёска Будагова Смалявіцкага раёна.



**Ветраніцы.**

**ВЕ́ТРАНІЦЫ,** закрыліны, дошкі, якія закрываюць тарцы двухсхільнай страхі, радзей страхі «з прычолкам» у традыцыйнай сялянскай хаце. Лакальныя назвы: ветравыя дошкі, апухі. У некаторых мясцовасцях цераз В. прапускаюць канцы лат. Раней В. прызначаліся для ўмацавання саламянага пакрыцця на страсе. Пазней іх сталі рабіць і пры інш. тыпах пакрыцця. В. ахоўваюць латы і шчыт ад ападкаў. Іх вяршыні ствараюць *вільчык*. Традыцыйна В. ўпрыгожваюцца разьбой. На Паазер'і часцей выкарыстоўваюцца сюжэты геаметрычнага арнаменту, на Панямонні, у цэнтр. раёнах Беларусі і асабліва на Падняпроўі — больш складаныя сюжэты расліннага арнаменту і спалучэнні яго з геаметрычным. Звычайна дэкаратыўны матыў на В. і застрэшку аднолькавы, што падкрэслівае адзінства мастацкага абліччa хаты. *С. А. Сергачоў.*

**ВЕЧАРЫ́НКА,** вечарына, даўні звычай сялянскай моладзі збірацца вечарамі, асабліва ў нядзелю ці свята, на танцы і гульні. Лакальная назва забава. Наладжвалі пераважна зімой у прасторнай хаце або карчме. У грамадскім побыце дарэвалюцыйнай вёскі — найбольш даступная магчымасць сустрэч моладзі. Бывалі В. і ў гарадскім асяроддзі. У пач. 20 ст. ў гарадах і мястэчках В. выкарыстоўвалі аматарскія гурткі для папулярызацыі бел. літаратуры і мастацтва (т. зв. беларускія В.). В. (танцы, танцавальныя вечары) у наш час праводзяцца ў клубах, Дамах культуры. Гл. таксама *Ігрышча.*

**ВЕ́ЯЛКА РУЧНА́Я,** шуфлік, прылада для веяння абмалочанага збожжа. Лёгкая драўляная лапатка (даўжыня 30—35 см, шырыня 15—20 см) з кароткай ручкай. Рабілі пераважна з суцэльнага кавалка дрэва (бярозы, асіны, вольхі, ліпы, вярбы), радзей з тонкіх

дошчачак ці фанеры. Дно ўвагнутае (выдзеўбанае) або прамое (пераважна на ПнУ Беларусі).

**ВЕ́ЯЛКА ФАБРЫ́ЧНАЯ,** арфа, машына з ручным прыводам для веяння абмалочанага збожжа. З 1820-х г. выкарыстоўвалася ў памешчыцкіх гаспадарках Беларусі, у сялян асноўнымі прыладамі веяння былі *веялка ручная*, рэшата, граблі і венік. Толькі ў 2-й пал. 19 ст. заможныя сяляне пачалі ачышчаць зерне машынамі. Найбольш вядомыя ў той час веялкі-сарціроўкі «Трыумф», Эверта і Бекера. Рабілі веялкі і на Беларусі. У 1912 у Магілёўскай губ. зроблена 23, у Мінскай — 214, Віцебскай — 400, Гродзенскай — 28 веялак. Сяляне часцей набывалі іх у мясцовых майстроў, а то і самі рабілі (млінкі, ветрадуйкі, ветрагонкі, вятранкі). Звычайна яны куплялі рашоты, сіты і шасцярэнькі, а драўляныя часткі майстравалі самі. У 1910 у бел. губернях было 41,8 тыс. веялак, з іх 20,9 тыс. ў сялянскіх і 20,9 тыс. ў памешчыцкіх і інш. прыватнаўласніцкіх гаспадарках. У Віцебскай губ. было 13,3 тыс. веялак, у Мінскай — 11,9 тыс., Віленскай — 7,1 тыс., Магілёўскай — 5,9 тыс., Гродзенскай — 3,6 тыс.

Складалася В. ф. з каўша для зерня, вентылятара, перагародкі для назадкаў і нахіленай сеткі, па якой скочвалася адборнае зерне. Змяняючы становішча раздзяляльніка і хуткасць руху вентылятара, можна было атрымаць адборнае зерне без прымесяў. Зерне ў коўш засыпалі ўручную. З каўша праз верх валіка яно падавалася на нахіленую скатную дошку, з якой пападала ў сустрэчны паветраны паток. Лёгкія часцінкі выносіліся далей да вентылятара, цяжэйшыя клаліся бліжэй. Там былі прымацаваны два шчыткі. Лёгкая мякіна выносілася за знешні шчыток, а ў прамежак паміж шчыткамі клалася легкаважнае зерне. Паміж вентылятарамі і ўнутр. шчытком сыпалася найб. цяжкае зерне, што праходзіла далейшую апрацоўку на рэшатах. На верхнім рэшаце аддзяляліся буйныя прымесі, асноўная маса зерня правальвалася праз адтуліны і трапляла на другое рэшата. Адборнае зерне скочвалася з яго, а дробнае, насенне пустазелля і пясок правальваліся пад машыну. За дзень ачышчалі 5—8 т зерня. В. ф. карысталіся да 1950-х г.

*Л. І. Мінько.*



**Веткаўская разьба.** Фасад дома ў горадзе Ветка.



**Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці.** Фрагмент экспазіцыі.



**Веялка ручная.**

**ВЁСКА,** асноўны тып сельскага паселішча на Беларусі. Слова «В.» этымалагічна ўзыходзіць да стараж.-слав. «вьсь», якое да нашага часу бытуе ў мовах усіх славян. Як тып паселішча ўзнікла пры рассяленні земляробчага насельніцтва. Асноўная структурная адзінка В.— *сядзіба.* Планіровачная форма сельскага паселішча ўзнікла ў далёкім мінулым і звязана з унутр. каланізацыяй і асваеннем новых тэрыторый, калі выбар сядзібнага ўчастка яшчэ не рэгламентаваўся. На характар планіровачнай структуры В. пэўным чынам уплываў і рэльеф. Гістарычна на Беларусі развілося некалькі планіровачных форм В.: скучаная (бессістэмная), лінейная (радковая), вулічная і інш. Для скучанай формы пасялення характэрна бессістэмная забудова сядзіб. Такі тып В. ў мінулым быў найб. пашыраны на ПнУ Беларусі (Віцебская, Магілёўская вобл.). Асаблівай бессістэмнасцю забудовы вылучаліся шляхецкія *аколіцы.* Такая забудова характэрна і для гнездавых пасяленняў, узнікненне якіх звязана з *патраніміяй*, калі група кроўна-родпасных сем'яў захоўвала гаспадарчае, грамадскае і ідэалагічнае адзінства і сялілася кампактнай масай. Для сваяцкіх груп характэрны калектыўнае карыстанне зямлёй, калектывізм у гаспадарчых работах, удзел усёй групы ў шлюбных і інш. абрадах. Сляды патранімічнай арганізацыі захаваліся ў многіх бел. В., дзе двары сем'яў з аднолькавымі прозвішчамі сканцэнтраваны асобнымі гнёздамі. З часоў Кіеўскай Русі вядома і лінейная, або радковая, планіроўка. Такі тып В. з размяшчэннем сядзіб уздоўж вуліцы або дарогі пашыраны па ўсёй Беларусі. Спачатку паселішчы з лінейнай планіроўкай складваліся ў лясной паласе ў сувязі з інтэнсіўным распадам у 8—9 ст. патрыярхальна-родавага ладу. Лінейнасць абумоўлена прыродна-геагр. умовамі — абрысамі берагоў рэк і азёр. Сядзібы забудоўваліся ўздоўж берага фасадамі хат пераважна да вады.

Вуліца звычайна праходзіла паміж берагам і хатамі і выцягвалася часам на некалькі кіламетраў. З асваеннем аддаленых ад водных артэрый тэрыторый і развіццём сеткі сухапутных дарог двары пачалі размяшчаць з абодвух бакоў *гасцінца*, утвараліся два паралельныя рады хат, павернутых тарцовым фасадам да дарогі, якая ў межах паселішча ўтварала вуліцу.

Штуршок пашырэнню вулічнай планіроўкі дала зямельная рэформа 1557. «Устава на валокі», якая змяніла форму землекарыстання і землеўладання, прадугледжвала пераўтварэнне сельскіх паселішчаў. Замест В. скучанага тыпу ствараліся новыя, абавязкова з вулічнай планіроўкай паводле распрацаванага і зацверджанага плана. Урадавым камісарам і каморнікам, якія практычна ажыццяўлялі рэформу, строга загадвалася падбіраць месцы, зручныя для размяшчэння В., пераважна каля азёр і рэк. Рассяленне сялян улічвала і стварэнне аптымальных умоў для кіраўніцтва В.: яны размяшчаліся так, каб жыхары сямі валок маглі апрацоўваць адну панскую валоку. Новыя вёскі найчасцей былі невялікія, па 10—30



**Вёска** Мышкавічы Кіраўскага раёна.

двароў. Вуліца праводзілася па ўсёй шырыні трэцяга поля, абапал наразаліся пляцы пад сядзібы. Селяніп, які браў адну валоку, будаваў хату і свіран на адным баку вуліцы, гаспадарчыя пабудовы — на другім. Калі валоку бралі два гаспадары — адзін з іх будаваў хату і ўсе гаспадарчыя пабудовы на адным баку вуліцы, другі — на другім. В. маглі ўшчыльняцца, але не расшырацца. Гэта і было перадумовай пертварэння вулічных В. у скучаныя другога генезісу. Калі рэльеф мясцовасці не дазваляў дакладна прытрымлівацца інструкцыі, тады В. закладвалі не ў цэнтры, а з краю трэцяга поля. У першую чаргу рэканструкцыі падлягалі памешчыцкія В. На землях «вялікага гаспадара» рэформа праводзілася з меншай інтэнсіўнасцю. Валочная рэформа закранула перш за ўсё паўд.-зах. раёны Беларусі, ахапіла каля 90 % В. Гродзенскай і ў меншай ступені — Пінскай, Кобрынскай эканомій. У Віцебскім і Магілёўскім ваяводствах рэформа праведзена часткова ў 17 ст. Да сярэдзіны 19 ст. частка вулічных, т. зв. устаўных В. забудоўвалася жылымі пабудовамі абапал вуліц. Рост насельніцтва пры адначасовым падзеле сем'яў прыводзіў да таго, што не хапала пляцоў для новых двароў. Маладая сям'я сялілася насупраць бацькавай хаты, а гаспадарчыя пабудовы, за выключэннем гумна, пераносіла бліжэй да жылля. Аднак вулічныя В. з хатамі на адным і гаспадарчымі пабудовамі на другім баку вуліцы былі ў Гродзенскай, Мінскай абл. да 20 ст., асобныя з іх існуюць і цяпер.

Сацыяльна-эканам. становішча на кожным гіст. этапе вызначала кірунак развіцця сялянскай гаспадаркі, уплывала на планіровачную структуру В., на яе памеры. Развіццё сельскіх паселішчаў ішло гал. чынам па шляху павелічэння колькасці двароў і ўшчыльнення забудовы. У эпоху феадалізму гэты працэс быў марудны. У канцы 19 ст. ў сувязі з умацаваннем пранікненнем капіталізму ў сельскую гаспадарку назіраецца тэндэнцыя да больш шырокага развіцця сельскіх населеных пунктаў. У пач. 20 ст. колькасць двароў у В. вырасла ў параўнанні з 1861 у 2—3 разы, прычым не столькі за кошт натуральнага прыросту насельніцтва, колькі з-за падзелу сем'яў. Вял. ролю ў пашырэнні тэрыторыі паселішча і яго росту адыграла развіццё капіталіст. адносін у В. У канцы 19 ст. і асабліва ў час сталыпінскай рэформы, а ў Зах. Беларусі ў 1930-я г. ў выніку *камасацыі* і *парцэляцыі* зямлі тысячы бел. В. расселены на *хутары*. Натуральны і паўнатуральны характар сялянскай гаспадаркі спрыяў таму, што В. доўгі час была хавальніцай фальклорна-этнагр. аблічча народа.

Усталяванне калгаснай сістэмы, змены форм землекарыстання, землеўладання і эканам. адносін выклікалі да жыцця новыя формы паселішчаў. Маленькія вёсачкі перасталі адпавядаць новым патрабаванням і ўмовам жыцця.



Беларуская **вёска** канца 19 ст.



**Вёска** Скрышава Навагрудскага раёна.

Выспелі перадумовы да ссялення хутароў. У 1930-я г. з 190 тыс. былых хутароў утворана 927 новых В., якія тады называліся калгаснымі пасёлкамі. У Вял. Айч. вайну нямецкія фашысты спалілі на Беларусі 9200 В., разрабавалі больш за 10 тыс. калгасаў, 92 саўгасы, 316 МТС, спалілі і разбурылі 421 тыс. дамоў калгаснікаў і аднаасобнікаў. Пасля вайны В. ўзбуйняліся, яны сплапаваны больш рацыянальна. Узнік новы тып сельскай планіроўкі — падзел паселішча на жылую, вытворча-гаспадарчую і культурна-бытавую зоны. У В. ствараюцца культурна-бытавыя выгоды, узводзяцца Палацы культуры і клубы, будынкі дзіцячых ясляў, садоў, школ, магазінаў, бытавых і медыцынскіх устаноў, спартыўныя збудаванні, закладваюцца паркі, будуюцца мураваныя шматкватэрныя дамы з водаправодам і каналізацыяй (Верцялішкі Гродзенскага, Сноў Нясвіжскага р-наў і інш.). Многія В. газіфікаваны. Усё больш ствараецца паселішчаў сацыялістычнага тыпу — калгасных пасёлкаў, якія набліжаюцца да гарадскіх. Сучасная калгасна-саўгасная В. ўступіла ў перыяд карэннай перабудовы традыцыйнай сістэмы рассялення і жылля хлебаробаў. Гэта яскравае сведчанне і прыклад непасрэднага ўздзеяння сацыяльна-эканам. фактараў на развіццё сельскіх населеных пунктаў. Сучасная тэхніка калгаснага сяла дазваляе карэнным чынам змяніць рэльеф і стварыць спрыяльныя ўмовы для жыцця амаль у любой мясцовасці. Пацвярджэнне гэтаму — будаўніцтва В. на асушаных землях. *У. С. Гуркоў.*



**Вілейскі строй.** Дзяўчына ў зімовай вопратцы (бурнос). Вёска Каралеўцы Вілейскага раёна.

**ВІЛАЧНІК,** 1) дзяржанне *вілаў, вілак.* 2) Вугал каля печы, дзе стаяць качарга, чапяла, вілкі і інш.; тое, што і *качарэжнік.*

**ВІЛЕЙСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Цэнтральнай Беларусі (пераважна на ПнЗ Мінскай і ПнУ Гродзенскай абл.). Пад час акрэслівання асаблівасцей В. с. ў 19 ст. на яго паўплываў гарадскі касцюм, што выявілася ў прыёмах крою і пашыву, шырокім выкарыстанні крамных тканін. У аздабленні пашырааны ўзорыстае ткацтва, маршчэнне, нашыўкі з тасёмак і стужак. Вышыўка сціплага арнаменту, стрыманага каларыту. У жаночы гарнітур уваходзяць кашуля, спадніца, фартух, гарсэт (у будні замест яго надзявалі безрукаўку-сканцэрку). Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, з сярэдзіны 19 ст.— з гесткай, аздаблялі паскам расліннага ці геаметрычнага чырвона-чорнага арнаменту на грудзях, плячах і каўняры. Узоры клетак і паскаў на спадніцы (з 4 прамавугольных, пазней трапецападобных полак) утвараліся за кошт чорных, цёмна-сініх, шэрых, жоўтых прасновак і пронідак утку. Спадніцу-андарак ткалі ў буйнарапортныя зялёна-вішнёвыя клеткі ці ў адзін колер — цёмна-зялёны, сіні, чорны (спадніца-рудляк). Фартух 1-полкавы, белы льняны ці паркалёвы або цёмны з крамных тканін; упрыгожвалі гафтам, нашыўкамі стужак, маршчэннем. Гарсэт (шнуроўка) з чорнай або цёмна-сіняй шарсцянкі ці аксаміту кроілі з баскай у 6—8 кліноў. Жаночыя галаўныя ўборы: намітка, белая палатняная або разнаколерная з фабрычнай шарсцянкі хустка і вялікая ткаиая або вязаная з воўны хустка-ахінанка, каптур з нашыўкамі тасёмак пазументу, шоўку, аксаміту. Шыйныя ўпрыгожанні: бісерныя, бурштынавыя, шкляныя пацеркі, стужкі з медальёнчыкамі і крыжыкамі. Традыцыйная жаночая вопратка мала адрознівалася ад мужчынскай (істотныя адрозненні мела вопратка, што ўзнікла пад уплывам гарадской моды). Бурнос і паўбурнос, расшыраныя кнізу, аздаблялі нашыўкамі гладкіх і зубчыкавых паскаў чорнага аксаміту, тасьмы ў спалучэнні з машынным штапам. Святочнай вопраткай былі суконныя капоты з адразной лініяй таліі і фалдамі на спіне, каптанік з сіняга ці чорнага сукна, сурдут, падбіты кудзеляй або ватай. Мужчынскі гарнітур складаўся з кашулі, нагавіц, сіняй ці чорнай камізэлькі (доўгай са стаячым каўняром ці кароткай), аздобленай нашыўкамі, трохвугольнай шыйнай хустачкі (каляшыйнік), галаўнога ўбору. У В. с. шмат відаў мужчынскай вопраткі, што адрозніваюцца якасцю тканін, кроем, мастацкім афармленнем і каларытам. У халодную восень і вясну насілі армяк, сярмягу, копту, чуйку, бурку, якія шылі з валенага сукна, узімку — непацягнутыя або пацягнутыя кажухі белага, шэрага, цёмна-карычневага колеру. *М. Ф. Раманюк.*



**Вілейскі строй.** Жанчына ў каптуры і хустцы. Маладзечаншчына. 1920-я гады.

**ВІЛЕНСКІ МУЗЕЙ СТАРАЖЫТНАСЦЕЙ.** Заснаваны 29.4.1855 Я. П. Тышкевічам, адкрыты 1.12.1856 у будынку бібліятэкі Віленскага ун-та. Існаваў з перапынкамі да 1-й сусветнай вайны. Аддзелы: археалогіі, этнаграфіі, мастацтва, зброі, мінералогіі, арніталогіі. Уласныя калекцыі музею перадалі Я. П. і К. П. Тышкевічы, У. Сыракомля, А. Кіркор, Т. Нарбут, М. І. Балінскі, Ф. Багушэвіч, І. Р. Кулакоўскі, А. А. Плятэр, К. А. Буйніцкі і інш. У канцы 19 ст. ў фондах музея больш за 12 тыс. экспанатаў, у т. л. багатыя калекцыі зброі, слуцкіх паясоў, карэліцкіх габеленаў, графікі, скульптуры, партрэты магнацкіх родаў (Радзівілаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, Храптовічаў, Сапегаў) і гербаў гарадоў Беларусі і Літвы, старажытныя рукапісы, інкунабулы і рэдкія выданні 15—18 ст., нумізматычная калекцыя, егіпецкія муміі і статуэткі багоў, этрускія вазы, японскія, італьянскія і кітайскія тканіны, фарфор, бронзавыя вырабы з розных краін. Шмат экспанатаў з Беларусі: археалагічныя знаходкі, граматы 12—14 ст. пра сувязі полацкіх князёў з ганзейскімі гарадамі, кальчуга са слав. надпісамі з Оршы, ядры з Мінскага замка, пячатка Крэва, каменныя ідалы са Слуцка, стараж. рэчы з Каложскай царквы ў Гродне і інш. Пры музеі дзейнічала Віленская археалагічная камісія (1855—65). Большасць экспанатаў зберагаецца ў Гіст. музеі ў Маскве, гіст.-этнагр. музеі АН Літоў-

скай ССР, музеі бурштыну (г. Паланга), Рэспубліканскай мастацкай галерэі Літоўскай ССР, Народным музеі ў Варшаве. *Г. А. Каханоўскі.*

**«ВИЛЕНСКИЕ ГУБЕРНСКИЕ ВЕДОМОСТИ»**, афіцыйная газета. Выдавалася на рус. мове Віленскім губернскім праўленнем з 1838 да 28.9(11.10).1916. Выходзіла ў Вільні, у 1915 (№ 61—63) у Дзісне, потым у Туле. Мела афіцыйны і неафіцыйны аддзелы. Неафіцыйны аддзел у 1846—63 выходзіў як самастойная газета пад той жа назвай, з 1864 друкаваўся на апошняй старонцы газеты. Асвятляў мясцовае жыццё, змяшчаў даследаванні па этнаграфіі і фальклору [«Гісторыя, геаграфія, этнаграфія і статыстыка заходніх губерняў і Віленскай у асаблівасці», 1847 і «Этнаграфія Віленскай губерні», 1848 А. Кіркора, «Каляда (у Беларусі)», 1852, «Пра зборнік заходнярускіх прыказак і прымавак» Р. І. Кулжынскага, 1866, і інш.], нарысы па гісторыі («Рух беларусаў на поўдзень Расіі да Кіева», 1868), геаграфіі («Нарыс Лідскага павета ў тапаграфічных адносінах», 1849), эканомікі, статыстыцы, культуры, нар. асвеце і інш. У розны час выходзілі дадаткі да газеты: «Асобныя артыкулы», «Дадаткі». *Н. А. Ляшковіч.*



Вілы.

**«ВИЛЕНСКИЙ ВЕСТНИК»** («Kurier Wileński»), палітычная і літаратурная газета, афіцыйны орган Паўночна-Заходняга краю; прадаўжэнне газеты «Kurier Litewski» («Літоўскі веснік»). Выдавалася з 1841 да 1915 у Вільні, з кастр. 1915—16 у Гомелі. У 1841—65 афіцыйныя матэрыялы друкаваліся на рус. і польскай мовах, неафіцыйныя — пераважна на польскай, з 1865 толькі на рус. мове. У 1859 — 65 рэдактар — даследчык бел. л-ры і фальклору А. Кіркор. У газеце супрацоўнічалі бел. і польскія пісьменнікі У. Сыракомля, В. Каратынскі, А. Вярыга-Дарэўскі і інш. Друкавала матэрыялы па бел. этнаграфіі: «Сялянскае вяселле ў Кобрынскім павеце» (1867); «Вясельны абрад у вёсках Навагрудскага павета» (1861) і «Некалькі звестак пра хатні побыт сялян паўночна-заходніх губерняў» (1869) М. А. Дзмітрыева, «Помнікі народнай творчасці ў Мінскай губерні...» А. М. Булгакава (1881); «Пахавальныя абрады беларусаў» (1890), «Нататкі з вандраванняў па Беларусі» (1890—91), «Адносіны беларуса да зямлі» (1893) М. В. Доўнар-Запольскага; «Калядныя святкі» (1894—95), «Дробныя нататкі з жыцця беларусаў», «Радаўніца ў Беларусі», «Вялікдзень у сяльчан беларусаў», «Купалле ў беларускай вёсцы» (усе 1895) П. П. Дземідовіча; «Вытрымкі з жыцця беларускай жанчыны» (1880) А. Я. Васільевай і інш. Змяшчала матэрыялы пра бел. літаратуру, гісторыю. Спачатку прытрымлівалася паланафільскага кірунку. З мая 1863 віленскім ген.-губернатарам М. Мураўёвым ператворана ў рэакцыйны урадавы орган. *А. І. Мальдзіс.*

**ВІЛКІ**, хатні бытавы (пячны) інвентар. Лакальная назва ўхваты. Паўкруглы жалезны рагач (ухват), насаджаны на доўгае драўлянае цаўё. Служыць для падхвату гаршкоў, чыгункоў, якія ставяць у печ або дастаюць з яе. У інтэр'еры традыцыйнай сялянскай хаты В. займаюць месца каля печы ў качарэжніку, разам з качаргой, чапялой і інш. пячным інвентаром.

**ВІЛЫ**, ручная прылада для падняцця і пераносу снапоў, сена, саломы і г. д. Вядомы В. драўляныя і металічныя з 2—3 пальцамі (зубамі) даўжынёю 40—50 см і круглым гладка адшліфаваным дзяржаком даўжынёю 1,5—3 м. У трохзубых В. трэці палец размешчаны насупраць двух як процілапец. Драўляныя трохзубыя В. выкарыстоўваліся ў сялянскіх гаспадарках пры сціртаванні снапоў і саломы, стагаванні сена, двухзубыя — для вытрасання саломы ў час малацьбы, прыгатавання трасянкі. У наш час бытуюць В. з металічнымі пальцамі. Часам В. называюць таксама *сахор. Л. І. Мінько.*

**ВІЛЬЧЫК**, вільчак, канёк, 1) верхняе рабро двухсхільнай страхі. 2) Разное ўпрыгожанне вяршынь закрылін. В. бываюць парныя (утвараюцца верхнімі выпускамі 2 перакрыжаваных закрылін) і адзінарныя. Парныя — найбольш старадаўняе і пашыранае ўпрыгожанне сялянскай хаты. Іх робяць тэхнікай прапілоўкі ў выглядзе стылізаваных рагоў, конскіх галоў, птушак, змей. Ёсць меркаванні, што раней В. выконвалі абярэгавую функцыю (гл. ў арт. *Апатрапей*), але з цягам часу іх магічны сэнс страціўся, яны сталі выключна дэкаратыўным элементам. Адзінарныя В. з'явіліся ў пач. 20 ст., іх выразваюць з адной дошкі і прыбіваюць на скрыжаванні закрылін. Разам з традыцыйнымі дэкаратыўнымі матывамі (раслінны, заамарфны, геаметрычны) сустракаюцца формы, уласцівыя толькі адзінарным В. (піка, страла, сэрца і інш.). У наш час формы В. ўзбагачаюць сучасная эмблематыкай (зорка, голуб). В. вядомы па ўсёй Беларусі, за выключэннем паўд.-зах. раёнаў Гомельшчыны, дзе больш пашыраны 4-схільныя дахі. *С. А. Сергачоў.*

**ВІНАКУРНЯ**, традыцыйная вытворчая пабудова, дзе варылі піва, гналі гарэлку; тое што і *бровар*. Лакальная назва вінніца.

**ВІРОК**, прылада для звівання пражы ў клубок; тое, што і *юрок*.

**«ВІСЛА»** («Wisła»), польскі краязнаўча-этнаграфічны ілюстраваны часопіс. Орган польскага этналагічнага таварыства. Выходзіў у Варшаве ў 1887—1905, 1916—17, 1922 (усяго 21 т.).



Вілкі.

Прызначаўся этнографам, фалькларыстам, антраполагам, географам і шырокаму колу чытачоў. Заснавальнік і рэдактар у 1888—99 Я. Карловіч. Друкаваў матэрыялы па этнаграфіі, фальклору, антрапалогіі, геаграфіі, нар. медыцыне і інш., справаздачы, рэцэнзіі, пераклады, польскую і замежную бібліяграфію, карэспандэнцыі. Змяшчаў артыкулы па духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў: «Падарожжа Нёманам» З. Глогера (т. 2, 1888), «Людзі і кветкі на берагах Нёмана» Э. Ажэшкі (т. 2, 1888; т. 4—5, 1890—91), «Дажынкі на Літве» Біруты (А. Даравінская, т. 3, 1889), «Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце» Э. Яленскай (т. 5, 1891), «З жыцця беларускага люду» А. Лантоўскага (т. 9, 1895), «Народныя павер'і ў ваколіцах Крывіч у Вілейскім павеце» Я. Кібарта (т. 13, 1899), «Святкаванне вяселля

ў Вілейскім павеце ў ваколіцы Маладзечна і Радашковіч» С. Кавалеўскай (т. 14, 1900), «Батлейкі» ў Лідскім павеце Віленскай губерні» Е. Іваноўскага (т. 15, 1901). *А. Ф. Літвіновіч.*

**«ВИ́ТЕБСКАЯ СТАРИНА́»**, зборнік дакументаў па гісторыі г. Віцебска і Віцебшчыны 11—19 ст. Падрыхтаваў да друку і выдаў у Віцебску гісторык А. П. Сапуноў. Планавалася 6 т., выдадзены т. 1, 4 і 5. У 1-м т. (1883) матэрыялы пра Віцебск з 1021 да 1883; урыўкі з летапісаў, інвентары горада, граматы віцебскіх і полацкіх князёў, Віцебскі летапіс, статыстычныя звесткі пра насельніцтва, законы рус. ўрада, што датычацца горада і губерні, дакументы пра Віцебскае паўстанне 1623, Айч. вайну 1812, Троіцкі манастыр і інш. У 4-м т. (1885, у 2 частках) змешчаны дакументы пра заняцце Віцебшчыны войскамі Івана Грознага і Аляксея Міхайлавіча. У 5-м т. (1888) матэрыялы пра гісторыю Полацкай епархіі, далучэнне уніяцкай царквы да праваслаўнай (1839). У 2-і і 3-і т. планавалася ўключыць дакументы пра гісторыю інш. гарадоў губерні, у 6-ы т.— гіст. нарыс пра Віцебскую губ., дадаткі, паказальнікі. «В. с.» багата ілюстравана. Большасць дакументаў у ёй апублікавана ўпершыню, арыгіналы асобных не зберагліся. Не ўсе дакументы надрукаваны поўнасцю, шмат з іх у перакладзе. «В. с.» — карысны даведнік па гісторыі Паўн. Беларусі. *А. П. Грыцкевіч.*



Традыцыйныя **вільчыкі** ў выглядзе конскіх галоў, птушак і рагоў.

**«ВИТЕБСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, афіцыйная газета. Выдавалася ў Віцебску на рус. мове Віцебскім губернскім праўленнем з 1838 да 23.12.1917 (5.1.1918). Мела афіцыйны і неафіцыйны (з 1845) аддзелы. Неафіцыйны аддзел меў значэнне самастойнай газеты, з 1901 выдаваўся асобна. З пач. 1890-х г. у ім шырока асвятлялася мясцовае жыццё, падзеі ў краіне і за мяжой, друкаваліся літаратурныя творы, даследаванні па гісторыі, этнаграфіі, фальклору: «Этнаграфічны агляд Віцебскай губ.» А. М. Семянтоўскага (1872), «Язычніцкія могілкі», «Пра вывучэнне дзіцячых беларускіх гульняў» (1890) Е. Р. Раманава, «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку» (1894—95), «Простанародныя прыкметы і павер'і, забабонныя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і месцы» (1896—97) М. Я. Нікіфароўскага, «Зямля і Араты» (1894), «Лепельскі павет Віцебскай губерні» (1895), «Старажытнасць беларускіх песень і іх напеваў» (1896) І. Д. Гарбачэўскага, «Кароткая нататка пра беларускую гаворку» (1895) У. К. Стукаліча, «Дзяды: Этнаграфічны нарыс з жыцця Лепельскіх беларусаў» (1898), «Новы год у вёсцы», «Зажынкі і абжынкі», «Талака» (усе 1903), «Вясковыя святы» (1904) А. Р. Пшчолкі, «Дунін-Марцінкевіч і яго паэма «Тарас на Парнасе» (1896) М. В. Доўнар-Запольскага і інш. З 1899 друкаваліся артыкулы па пытаннях грамадскага жыцця, эканомікі, культуры, нар. асветы на Беларусі. У пач. 1907 выйшла 8 нумароў пядзельнага дадатку да неафіцыйнага аддзела «Народный листок». У апошніх нумарах афіцыйнага аддзела газеты ў снежні 1917 (№ 77, 78) змешчаны пастановы мясцовых органаў Сав. улады. *М. А. Тарасаў.*



**ВІ́ЦЕБСКАЯ ВУЧО́НАЯ АРХІ́ЎНАЯ КАМІСІЯ**, гістарычнае таварыства Віцебскай губ. Існавала ў 1909—18. Мела на мэце вывучэнне гіст. дакументаў у архівах і губернскіх установах, ахову помнікаў гісторыі і культуры, збіранне прадметаў старажытнасці, правядзенне археалагічных раскопак, даследаванне і папулярызацыю гісторыі роднага краю, арганізацыю экскурсій па гіст. мясцінах.



**Віцебская кераміка.** Уверсе: гаршчок. 14 ст. (злева); гляк. 15 ст. Унізе (злева направа): паліваная пасудзіна для спецый. 16 ст.; фрагмент размаляванай паліванай міскі. 16—17 ст.; паліваная чарпіліца. 17 ст.

У 1910 налічвала 99 ганаровых (у т. л. Я. Ф. Карскі, А. А. Шахматаў, Б. І. Эпімах-Шыпіла) і 325 правадзейных членаў (у т. л. Дз. С. Леанардаў, М. Я. Нікіфароўскі, А. П. Сапуноў, У. К. Стукаліч, К. І. Ціхаміраў), 15 членаў-супрацоўнікаў. Мела гіст. архіў, музей (каля 1,7 тыс. экспанатаў), бібліятэку. Існавала на членскія ўзносы, ахвяраванні, зборы з лекцый, субсідыі ўрада. Выдавала навуковыя працы па гісторыі, геаграфіі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі, зборнік «Труды Витебской учёной архивной комиссии» (з 1911 *«Полоцко-Витебская старина»*). Вяла работу па ўшанаванню памяці герояў Айчыннай вайны 1812. Паводле ініцыятывы камісіі адкрыта Віцебскае

аддзяленне Маскоўскага археалагічнага ін-та. Падтрымлівала сувязі са 105 навуковымі ўстановамі ў Расіі і за мяжой. Скасавана ў сувязі са стварэннем губернскага архіўнага ўпраўлення. Гіст. архіў-музей і бібліятэка перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археалагічнага ін-та. *В. А. Цыбуля.*

**ВІЦЕБСКАЯ КЕРА́МІКА**, вырабы 10—18 ст. з мясцовай гліны, знойдзеныя пры археалагічных раскопках у Віцебску: посуд, падсвечнікі, цацкі, люлькі і інш. прадметы хатняга ўжытку. Вырабы 10—1-й пал. 14 ст. (гаршкі, міскі) маюць тоўстыя сценкі, арнаментаваныя рэльефнымі ямкамі, касымі насечкамі, хвалістым малюнкам, лінейным рыфленнем, а таксама кальцавымі і спіральнымі налепамі. Кераміка 2-й пал. 14—1-й пал. 16 ст. (збаны, накрыўкі да гаршкоў, спарышы, макатры) адрозніваецца больш тонкімі сценкамі і разнастайнасцю форм. У 2-й пал. 16—17 ст. посуд рабілі на нажным ганчарным крузе. Вырабы знутры пакрывалі зялёнай і жоўтай палівай, звонку дэкарыравалі ангобамі або рэльефным (лінейным ці хвалістым) арнаментам. У 17 ст. значна пашырыўся асартымент (глякі, талеркі, кубкі, малочнікі, чайнікі і інш.), ужывалася падпалі́ўная *ангобная размалёўка*, арнаменты ў выглядзе ліній, салярных знакаў, кветак, кропак выконвалі карычневым і белым колерамі па зялёным і жоўтым фонах. Вырабы 18 ст. арнаментаваны менш насычана, формы посуду спрошчаны, размалёўвалі толькі міскі і талеркі, ужывалі аднакаляровую паліву, якая пакрывала сценкі знутры і звонку. Гліняныя люлькі таго часу дэкарыраваны рэльефнымі арнаментамі, разеткамі. *В. М. Ляўко.*

**ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны 12.11.1918 як Віцебскі губернскі музей на базе калекцый А. Р. Брадоўскага і музея Віленскага вайсковага збору (эвакуіраваны ў Віцебск у 1-ю сусв. вайну). Адкрыты ў чэрвені 1919. У Вял. Айч. вайну разрабаваны ням.-фаш. захопнікамі. Адноўлены ў 1945. Размешчаны ў будынку былой ратушы і прылеглых да яе пабудоў. Да рэканструкцыі (1982) 18 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 1012 м$^2$), 113 тыс. экспанатаў (1988).

У фондах матэрыялы археалагічных раскопак на Віцебшчыне, калекцыі нумізматыкі, сфрагістыкі, фарфору, стараж. зброі, прылады працы і побыту сялян 2-й пал. 19— пач. 20 ст. (калаўроты, кросны, пранікі, качалкі, набойныя дошкі, верацёны, грабяні для часання льну, ступы, плеценыя кашы, сявенькі, ганчарны круг і посуд, ручнікі, андаракі, саяны, наміткі, чапцы, тканыя і плеценыя паясы і інш.), дакументы пра ўдзел працоўных Віцебшчыны ў Рэвалюцыі 1905—07, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыях, грамадзянскай і Вял. Айч. войнах, пра аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў краі. Сярод экспанатаў берасцяная грамата 13—14 ст., «Евангелле з мініяцюрамі», выдадзенае ў Маскве ў 1628, «Канонік» з гравюрамі 18 ст., рукапіс кнігі «Гісторыя горада Віцебска» А. П. Сапунова; матэрыялы пра бел. і рускіх савецкіх пісьменнікаў, кампазітараў. Зберагаюцца асобныя творы і калекцыі рускіх і бел. жывапісцаў 19— пач. 20 ст., творы бел. сав. мастакоў і скульптараў, вырабы нар. мастацтва (разьба па дрэве, пляценне з саломкі, пісанкі, выцінанкі, посцілкі, ганчарныя вырабы і інш.). Самастойныя раздзелы экспазіцыі: музей-пакой Героя Сав. Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы П. М. Машэрава, героі Віцебскага падполля (былая турма СД); філіял — Музей баявой садружнасці на кургане Дружбы (Верхнядзвінскі р-н). *Н. А. Сулецкая.*

**ВІЦЕБСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Існаваў у 1893—1919. Заснаваны Е. Р. Раманавым і А. П. Сапуновым, супрацоўнічалі Дз.І. Даўгяла, М. Ф. Кусцінскі, М. Я. Нікіфароўскі, А. М. Семянтоўскі. Першыя экспанаты сабраны ў Віцебску. Папаўняўся выпадкова знойдзенымі рэчамі і матэрыяламі археалагічных раскопак на Віцебшчыне. У 1905 было 1247 экспанатаў, у т. л. ўзоры нар. разьбы на косці і дрэве, манеты, медалі, царкоўнае начынне, творы бел. мастакоў 17—18 ст., рукапісныя кнігі, дакументы ўстаноў Полацкай епархіі, апісаныя Сапуновым у кнізе «Архіў Полацкай духоўнай кансісторыі» (1898) і інш. У 1919 большасць матэрыялаў перададзена Віцебскаму губернскаму музею (гл. *Віцебскі абласны краязнаўчы музей*). *Г. А. Каханоўскі.*

**ВІЦЕБСКІЯ РУЧНІКІ́**, традыцыйныя тканыя ручнікі, якія выраблялі народныя майстры вёсак Шаркоўшчынскага, Міёрскага, Браслаўскага, Віцебскага р-наў. Вядомы з 19 ст. Даўжыня 120—300 см, шырыня 23—30 см. Ткуць з адбеленага кужалю або белай баваўны. Аздаблялі на канцах карункамі, мохрыкамі. Узор ствараецца выкладаннем чырвоных, чорных, блакітных, жоўтых нітак баваўны (выбарнае ткацтва), што нагадвае вышыўку па гатовай тканіне.







**Віцебскія ручнікі.** Шаркоўшчынскі і Міёрскі (справа) раёны.

У арнаментыцы пашыраны раслінныя (дрэва жыцця, вазоны, букеты кветак, парасткі), геаметрычныя (ромб, крыжык, зоркі-пальметкі), антрапаморфныя і зааморфныя (выявы людзей, птушак) матывы. Раслінны, зааморфны і антрапаморфны арнамент звычайна не мае рытмічнага паўтору, адзінкавая выява даецца буйным планам амаль на ўсю шырыню ручніка. Уласцівыя В. р. сюжэтнасць арнаментальных кампазіцый, паліхромнасць каларыстычнай гамы, перавага белага фону ў месцах размяшчэння дэкору назіраюцца таксама ў афармленні нар. адзення, розных відаў мастацкіх тканін гэтай этнагр. зоны. Лепшыя ўзоры ручнікоў зберагаюцца ў музеях, экспануюцца на выстаўках нар. творчасці. *М. Ф. Раманюк.*

**ВІЦІ́НА**, старадаўняе драўлянае пласкадоннае рачное судна з палубай і парусамі для перавозкі збожжа і інш. грузаў. Вядома з 15 ст. Даўжыня В. 43—53 м, шырыня 4—11 м, грузапады-

мальнасць 128—192 т. Будавалася і хадзіла па Нёмане, Шчары, Віліі. Пачала знікаць у 2-й пал. 19 ст., зрэдку выкарыстоўвалася ў пач. 20 ст. *Н. І. Буракоўская.*

**ВІЦЦЁ МАСТА́ЦКАЕ**, адзін з асноўных спосабаў вырабу паясоў, шнуроў, абор і інш. бытавых рэчаў; від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тэхнікай блізкае да прадзення: 2 суканыя пасмы валакністага матэрыялу ці воласу злучаюць у адну вяроўку ці матуз. Віццё вядома з глыбокай старажытнасці, адбіткі шнуроў знаходзяць на посудзе культуры шнуравой керамікі бронзавага веку. У якасці матэрыялу на Беларусі найчасцей выкарыстоўваюць лён, пяньку, радзей воўну, конскі волас, лыка. Віццё бывае ручное (пальцамі або з дапамогай 2 драўляных кручкоў) і машыннае. Высокімі мастацкімі якасцямі і тэхнічным майстэрствам выканання адметныя мужчынскія вітыя паясы ў нар. касцюме. Робяць іх звычайна з белай і чырвонай пасмаў воўны аднолькавай таўшчыні. Пасмы звіваюць, утвараючы круглы пярэсты шнур, абодва канцы якога заканчваюцца пышнымі кутасамі. Падобнымі, але вузейшымі шнурамі аздаблялі традыцыйныя касцюмы, гарсэты, світы, галаўныя ўборы і інш. З добра вычасанага лёну ці канапель вілі матузкі-тасёмкі для шнуравання гарсэтаў, падпяразвання спадніц, прыгожыя аборы для святочных пасталоў ці лапцей. У наш час ужываецца нар. майстрамі ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. *М. Ф. Раманюк.*

**ВІ́ЦЫ**, перавяслы з лазовых, бярозавых, альховых пруткоў або карэнняў дрэў для звязвання плытоў. Лакальныя назвы віткі, пузды, гужба, гардзялі. Часам ужывалі пяньковыя вяроўкі. Хамутом з В. канцы кожнага бервяна прывязвалі да жаросцей — папярэчных жэрдак.

**«ВІ́ШАНЬКА»**, карагод, танец, гульня. Карагод «В.» выконваецца парамі па крузе. Асноўны элемент — адначасовае кручэнне дзяўчыны пад рукой хлопца і вакол яго. Хлопец у гэты час простым крокам рухаецца ўслед за дзяўчынай. Танец «В.» выконваецца таксама парамі, але ў кожным рэгіёне надтрымка ў пары розная (простае злучэнне рук «кісць у кісць», накрыж перад сабой і інш.). Простым крокам выканаўца рухаецца па крузе, развярнуўшыся, ідучы назад. Характэрны кручэнне дзяўчыны пад рукой хлопца ў адваротным напрамку і пераход да другога партнёра. Танец і карагод зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на ПнЗ Беларусі.

У гульню «В.» («Ірваць вішаньку») гулялі пераважна на калядах. Дзяўчына станавілася на табурэце паміж двух хлопцаў, якія, узяўшыся за рукі, ахоўваюць яе («вішаньку») ад трэцяга, які стаіць побач з імі. Дзяўчына трымае ў роце саломінку і паварочвае галаву з боку ў бок. Той трэці павінен падскочыць да дзяўчыны і губамі схапіць саломінку. Калі гэта ўдаецца, дзяўчына цалуе яго.



Гульня **«Вішанька»**. Выконваюць жыхары вёскі Сітцы Докшыцкага раёна.

**ВО́ЖАГ**, 1) ляшчоткі (клешчы) — прылады, якімі выцягваюць з печы і апускаюць у брагу (паджога, пажога, абвара) гартавацца або абварвацца абпалены посуд. Пашыраны на Пн Беларусі. 2) Дзяржальна вілак, качаргі. Лакальная назва вожуг.

**ВОЗ**, 1) гужавы транспартны сродак, рабочая павозка для коннай ці валовай цягі; тое, што і *калёсы*. 2) Павозка разам з грузам. У нар. вытворчай практыцы служыў адзінкай вымярэння транспартных грузаў (воз сена, воз дроў, гною і т. п.). Яго сярэднія памеры фіксаваліся нар. традыцыяй і адпавядалі грузазмяшчальнасці таго ці інш. тыпу транспартнага сродку і цяглавай сіле («воз, як каню павезці»). *В. С. Цітоў.*



**Волак.**

**ВО́ЛАК**, традыцыйная рыбалоўная снасць; сеткавы мяшок, прымацаваны ў ніжніх канцах да двух шастоў (дзядоў). Для лепшага затаплення да мяшка прывязвалі камень. У час лоўлі мяшок знаходзіўся ў гарызантальным стане і адкрытай часткай быў накіраваны ў напрамку цячэння. Аб злоўленай рыбе даведваліся па паторгванні шнуроў (старажоў), што мацаваліся да верхняй плоскасці мяшка і ўтрымлівалі яго ў адкрытым стане. Лавілі В. з двух лодак. Выкарыстоўвалі В. і без шастоў (на Дняпры): мяшок цягнулі за лодкамі на вяроўках. Вядомы на ўсёй Беларусі. *І. М. Браім.*

**ВО́ЛАТ** (ад старaслав. велии — вялікі), персанаж беларускай міфалогіі. В. ўяўлялі асілкам вялізнага росту і магутнай сілы. Паводле паданняў В. жылі ў старaж. час і пахаваны ў доўгіх курганах, названых *валатоўкамі* (пашыраны на Пн Беларусі, а таксама





на Пскоўшчыне і Смаленшчыне). З В. нар. паданні звязваюць назвы некаторых вёсак у паўн.-ўсх. і цэнтр. Беларусі (Волаты, Валатоўкі і інш.). Некаторыя бел. этнографы (В. Ластоўскі, М. Каспяровіч) беспадстаўна лічылі В. стараж. групай людзей, продкамі бел. этнасу. Паданні пра В. зрабілі ўплыў на чарадзейныя казкі пра асілкаў, якім уласцівы некаторыя рысы В. (вялікая сіла). *М. Ф. Піліпенка.*

**«ВО́ПЫТ АПІСА́ННЯ МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕ́РНІ** ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфічных, прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, навучальных, медыцынскіх і статыстычных адносінах». Выдадзены на рус. мове ў 1882—84 у Магілёве губернскім статыстычным камітэтам. Складаецца з трох кніг. Ініцыятар выдання і рэдактар калектыўнай працы А. С. Дамбавецкі, старшыня статыстычнага камітэта, магілёўскі губернатар. У падрыхтоўцы і напісанні прымалі ўдзел 19 спецыялістаў розных галін. У зборы матэрыялаў паводле праграмы, складзенай Дамбавецкім, удзельнічалі розныя слаі насельніцтва.

У працы дадзена характарыстыка асноўных заняткаў насельніцтва, матэрыяльнай і духоўнай культуры жыхароў Магілёўшчыны. У прадмове прыводзяцца кароткія звесткі пра гаспадарчае і культурнае жыццё губерні да і пасля далучэння да Расіі (1772). У якасці дадатку змешчаны спісы бел. намеснікаў, магілёўскіх губернатараў за 1772—1872, пералік гандлёвых мер і манет,



Восці.

што былі ў абароце ў губерні ў 15—17 ст., цэн на прадукты і на працу па найму ў 1679—89.

У 1-й кнізе змешчаны гіст., фізікагеагр. і этнагр. нарысы губерні. Апісаны рэкі, азёры, балоты, клімат, раслінны і жывёльны свет. Прыведзены назвы лекавых раслін, карысных і шкодных грыбоў, фруктовых дрэў і кустоў. Значнае месца адведзена побыту насельніцтва губерні. Паведамляецца пра спосаб жыцця, заняткі і промыслы, звычаі і абрады сялян, былой шляхты, мяшчан, стараверау, цыган. Шырока прадстаўлены сялянскі каляндар нар. звычаяў і абрадаў: даецца апісанне вяселля і хрысцін, талакі, дажынак, гульняў, павер'яў. Змешчана каля 500 бел. нар. песень каляндарнага цыкла, вясельных, рэлігійнага зместу. У 1884 Дамбавецкім выдадзены ў якасці дадатку да 1-й кнігі «Вясельныя песні беларускія». Змешчаны матэрыял пра нар. тэатр: калядныя гульні «Каза», «Кабыла», «Мядзведзь», шэсці з зоркай, хаджэнні з батлейкай. Апісана прадстаўленне нар. лялечнага тэатра батлейкі «Цар Ірад».

У 2-й кнізе — гіст. апісанне гарадоў і мястэчак губерні. Найбольш падрабязныя звесткі прыведзены пра Магілёў: тапаграфічнае месцазнаходжанне, герб, галоўныя вуліцы і плошчы, гіст. звесткі, апісаны архітэктурныя помнікі. Асобныя раздзелы прысвечаны прамысловасці (фабрыкі і заводы, рамёствы, саматужная прамысловасць) і сельскай гаспадарцы, шляхам зносін і тэлеграфнай сетцы ў губерні, гандлю, лясам і лясной гаспадарцы. Надрукаваны матэрыял пра становішча нар. адукацыі і аховы здароўя.

У 3-й кнізе змешчаны статыстычныя звесткі па губерні і асобных яе паветах. Прыведзены табліцы пра насельніцтва (шлюбы, нараджэнні, смяротнасць), размеркаванне зямлі па ўгоддзях, лік прыватных землеўладальнікаў і прыватных уладанняў; змешчан пералік валасцей па паветах; названы судовыя і адміністрацыйныя ўстановы, цэрквы, школы, бальніцы, чыгуначныя станцыі, узаемная аддегласць гарадоў. Надрукаваны звесткі пра колькасць каменных і драўляных пабудоў па гарадах і валасцях, коней і рагатай жывёлы (на кожнае сяло і на кожнага чалавека) і інш. Выданне ілюстравана. Змешчаны фотаздымкі Магілёва, інш. гарадоў і некаторых мястэчак, адміністрацыйная карта губерні, карта глеб і лясоў.

*І. І. Філіповіч, Т. І. Чаплыгіна.*

**ВО́РВАНЬ,** тлушч, здабыты з марскіх жывёл (цюленя, кіта) або рыб. Ужываўся ў *гарбарстве, шавецтве* і *рымарстве* для жыроўкі скур і ботаў. В. выкарыстоўвалі гарадскія і местачковыя рамеснікі. Вясковыя гарбары і рымары карысталіся звычайна бярозавым («чыстым») дзёгцем.

**ВО́РЧЫК,** б а р а к, прыстасаванне для запрагання каня ў плуг, барану ці для прыпрэжкі яго з боку аглабель у дапамогу каранніку (сярэдні конь у тройцы).

**ВО́СЦІ,** старадаўняя рыбалоўная прылада; дрэўка з металічным наканечнікам, які меў ад 2 да 10 зубоў з завусеніцамі. Наканечнік насаджваўся на дрэўка пры дапамозе ўтулкі або пераязаныя паміж сабой зубы ўбіваліся ў канец палкі ці ў драўляную пласцінку і дадаткова мацаваліся дротам. Рыбачылі В. зімой у час прыдух, вясной на нерасцілішчах, летам — ноччу з агнём (гарэў у спецыяльным прыстасаванні, гл. *Каза*). Былі пашыраны па ўсёй Беларусі. У наш час лоўля В. забаронена. *І. М. Браім.*

**ВО́ЎНА** а в е ч а я, сыравіна для вырабу валеных рэчаў (гл. ў арт. *Валюшнае рамяство*) і нітак для вязання і ткацтва. Састрыжаную В. (авечак стрыгуць 2 разы ў год — вясной і восенню) мыюць, прасушваюць, сартуюць, разрыхляюць (чэшуць). На Беларусі здаўна вядомы

ручны спосаб рыхлення В. (мылі, разбіралі рукамі, часалі на *грабянях*, разбівалі з дапамогай *брынды*) і механічны (часалі на *ваўначосках*). У наш час пераважае механічны.

**ВУ́ГАЛ** у з р у б е, частка зруба ў месцы злучэння бярвён, брусоў, дыляў у *вянец*. У нар. будаўніцтве распрацаваны 2 тыпы В.: з астаткам (канцы бярвён выступаюць за вонкавыя плоскасці сцен) і без астатку (канцы бярвён абрэзваюцца на ўзроўні плоскасці сцен). В. з астаткам вядомы па ўсёй Беларусі, мае некалькі варыянтаў: «у чашку», «у просты замок», «у каню». Астатак забяспечваў большую ўстойлівасць зруба, захоўваў В. ад прамярзання. Тарцы бярвён ачэсваюцца на 6 ці 5 граней (Усх. Палессе), робяцца са своеасаблівай падрэзкай (В. «у каню»; Зах. Палессе). Усё гэта стварае кантраст паміж гранямі выступаў В. і сценамі, узбагачае святлоценявыя эфекты. В. без астатку («гладкі», «чысты», «нямецкі») дазваляе рацыянальна выкарыстоўваць усю даўжыню бярвён. З канца 19 ст. шырока бытаваў у Зах. Беларусі, у наш час распаўсюджаны па ўсёй рэспубліцы. В. з астаткам і без яго часта прыкрываюцца вертыкальнымі дошкамі (шалёўкамі, што захоўвае зруб ад загнівання). З 1950-х г. гэта (асабліва пры вуглах без астатку) стала новым відам дэкаратыўнага афармлення сялянскай хаты (Зах. Палессе, Падняпроўе, Цэнтр. р-н). Найбольш пашырана накладная разьба ў выглядзе ромбаў і інш. геаметрычных фігур, стылізаваных раслін, кветак, птушак і інш. У наш час гэты дэкор дапаўняецца колерам.

*С. А. Сергачоў.*




Способы рубкі **вуглоў:** 1—7 — з астаткам (6—7 — «у каню»); 8—9 — без астатку.

**ВУГО́ЛЬНІК,** самагучны ўдарны музычны інструмент; сагнуты ў форме трохвугольніка стальны прэнт. Інструмент падвешвалі на ўказальны палец левай рукі з дапамогай дроту ці вяровачкі, і, удараючы па ім тонкім цвіком («прэнцікам»), атрымлівалі гук неакрэсленай вышыні, адрывісты або трэмалюючы, звонкі, пяшчотнага тэмбру. Прататыпам В. ў бел. нар. музычнай практыцы была, верагодна, падкова. У Верхнядзвінскім р-не зафіксавана мясцовая разнавіднасць В.— сталькі, што маюць падковападобную форму; канцы загнуты вонкі. Іх вырабляў мясцовы каваль з зубоў старых конных грабель. В. выкарыстоўваецца як рытмічна-каларыстычны інструмент у ансамблях са скрыпкай, гармонікам, пры выкананні танцаў, вясельных маршаў.

*І. Дз. Назіна.*

**ВУ́ДА,** рыбалоўная снасць. Традыцыйная В. складаецца з вудзільна (драўлянае), лескі (са звітых конскіх валасоў, пітак), паплаўка (з пёраў птушак, хваёвай кары, коркаў), грузіла (у старажытнасці з каменьчыкаў, пазней металічныя), кручка (з косці, галінак, дроту). На кручок прыладжваецца чарвяк, лічынка, муха, падзёнка, гарох, хлеб і інш. прынады. Ловяць рыбу В. з берага і з лодкі. Раней на цячэнні выкарыстоўвалі напраўныя В., т. зв. *пераналокі*, для падлёднага зімовага лову — блісні. На Беларусі вядома з глыбокай старажытнасці. У наш час В.— папулярная снасць аматарскага і спартыўнага лову рыбы. У вытворчасці сучасных В. шырока выкарыстоўваюцца сінтэтычныя матэрыялы і металічныя сплавы.

*І. М. Браім.*

**ВУЗДЭ́ЧКА,** неабходная частка *вупражы* або коннай амуніцыі для верхавой язды, што надзяваецца каню на галаву; выкарыстоўваецца і самастойна як сродак кіравання жывёлай; тое, што і *аброць*.



Вугольнік.

**ВУ́ЛЕЙ,** штучнае жытло для пчалінай сям'і, зробленае чалавекам. Слова «В.» паходзіць ад лексемы «олекъ», упершыню пісьмова зафіксаванай у значэнні «пустая борць» у кароткай рэдакцыі «Рускай праўды» («Праўдзе Яраслава»). Гісторыя развіцця В. ахоплівае некалькі тысячагоддзяў. Пра ўтрыманне ўсх. славянамі пчол у драўляных В. сведчаць запісы арабскіх падарожнікаў (10 ст.), якія параўноўвалі іх з цэбрамі і збанамі. На Беларусі першым штучным жытлом пчаліных сям'і была *борць*, а першым пераносным неразборным В.— *калода*. Выкарыстанне плеценых *саламяных вуллёў* і В. з лазымалакіты (гл. *Лазавік*) не мела знач-

нага пашырэння. Вынаходства разборнага *рамовага вулля* — паваротная вяха ў рацыянальным утрыманні пчол. Рамавыя В. вядомы на Беларусі з 19 ст. і паклалі пачатак пераходу да рамовага пчалярства. У наш час на грамадскіх і аматарскіх пчальніках выкарыстоўваюцца разнастайныя мадэлі В. (захаваліся нават калодныя В.). У апошнія гады найбольш пашыраны шматкорпусныя В. і лежакі на 16 і 24 рамкі.

*У. С. Гуркоў, С. Ф. Цярохін.*

**ВУ́ПРАЖ,** збруя для коннай або валовай запрэжкі. Паводле прызначэння падзяляецца на транспартную (для перавозкі пасажыраў і грузаў), сярод якой вылучаецца выязная, і рабочую (для работ з земляробчымі прыладамі — сахой, бараной, плугам і інш.). Да В. не адносіцца амуніцыя для верхавой язды. Паводле канструкцыйных асаблівасцей вылучаюць тры тыпы (сістэмы) В.: хамутовую, шлейную і ярэмную. Хамутовая была пашырана на ўсёй Беларусі, але найбольш у паўн.-ўсх. яе частцы, на тэр. Паазер'я (Падзвіння) і Падняпроўя, дзе здаўна асноўнай цяглавай сілай быў конь. Асноўная частка гэтай В.— *хамут* у комплексе з інш. элементамі. Пры запраганні ў аглоблі выкарыстоўваюцца *дуга, падсядзёлак,* папруга, церассядзёлак, набадры; пры запраганні ў *пастронкі* ў пасажырскіх, часцей мнагаконных экіпажах замест хамута персі і карак коней аблягае спецыяльна сшытая шляя ў выглядзе шырокага рэменя. Ва ўсіх тыпах В. неабходны *аброць* і *лейцы.* Кожны з састаўных элементаў В. мог адрозніваца вонкавай формай, матэрыялам (скура, пянька, валокны ліпавай кары і інш.), канструкцыйным спалучэннем асобных дэталяў і спосабамі ўпрыгожвання. Упрыгожвалі пераважна выязную В., якая заўсёды мела адзнакі саслоўнай прыналежнасці і індывідуальнага мастацкага густу. Бел. майстры-рымары валодалі рознымі спосабамі і навыкамі апрацоўкі элементаў В. з улікам іх узаемнага дапасавання і гармоніі, анатоміі і нораву жывёліны. Сродкі эстэтычнага выяўлення — колер, узорыстае шытво, шво, цісненне, дадатковыя дэкаратыўныя дэталі. Дугу маляўніча расфарбоўвалі, шляю аздаблялі цісне́ным арнаментальным узорам, аброць, набадры — бліскучымі металічнымі накладкамі, некаторыя ўчасткі — махрамі і кутасамі. Часам мастацкі акцэнт пераносіўся на наспінную шляю з шырокай дэкарыраванай палоскі скуры з бліскаўкамі або аплікацыяй. У час урачыстых выездаў на шыю каня надзявалі *шархуны* з бразготкамі або чаплялі бразготкі ці званочкі пад размаляванай дугой, аздобленай кветкамі і каляровымі стужкамі. Выязная В. выконвала важную ролю ў бел. абрадах вяселля, масленіцы, у кірмашовых святах, гасцінах і інш.

У сялянскіх гаспадарках Паўд.-Зах. Беларусі, дзе асноўнай рабочай жывёлай былі валы, амаль да сярэдзіны 20 ст. рабілі ярэмную В. на пару валоў, якія хадзілі ў дышальнай запрэжцы. Ярмо на аднаго вала *(байкун)* выкарыстоўвалася ў аглабельнай або пастронкавай запрэжцы. В. ярэмнага тыпу самая старажытная, вядома з часоў неаліту. Узоры яе сустракаюцца на антычных гравюрах і мініяцюрах. Вынаходства шляі (прататып хамута) адкрыла новы этап у развіцці гужавога транспарту, дало пачатак шырокаму выкарыстанню каня як цяглавай жывёлы. Першыя формы коннай В. на ўзор сучасных праніклі ў Еўропу з У праз вандроўных гунаў, авараў, венграў. На Беларусі, паводле археалагічных крыніц, вядомы з 11 ст., а дуга, падсядзёлак, папруга, набадры, лейцы — з больш позняй пары. На сярэдневяковых мініяцюрах конныя экіпажы паказаны найчасцей у пастронкавай запрэжцы з фурманам, які сядзіць верхам на кані. Вытворчасць В. была цесна звязана з рымарскім, шавецкім і дрэваапрацоўчым рамёствамі. Эвалюцыя В. адлюстроўвала ўзровень грамадскай вытворчасці, гіст. ўзаемасувязі і пераемнасць этнакультурных традыцый. Вынаходства машын паклала пачатак новым сучасным відам транспартных сродкаў. У наш час традыцыйная В. ужываецца пераважна ў асабістых гаспадарках, калгасах і саўгасах.

*В. С. Цітоў.*



**Вупраж.** Запрэжаны конь.





Натыканне ўзору ў **выбарным ткацтве** (правы і левы бок тканіны).

**ВУША́К,** вертыкальны канструкцыйны элемент, з дапамогай якога ствараюцца праёмы акон і дзвярэй і адначасова забяспечваецца ўстойлівасць сцяны. Зверху В. аб'ядноўваюцца вершнікам, знізу пры дапамозе шыпа мацуюцца да *вянца* зруба, што стварае парог. У В. робяць пазы, куды закладваюць бярвёны сцяны, а таксама паз — т. зв.

«чвэрць»,— каб шчыльней прылягала палатно дзвярэй або лепш уваходзіла аконная рама. Раней у шырокіх В. выдзёўбвалі палічкі для рознай хатняй драбязы. *С. А. Сергачоў.*

**ВЫБАРНАЕ ТКА́ЦТВА,** тэхніка народнага *ткацтва.* Бытавала ў канцы 19 — пач. 20 ст. пераважна на Гомельшчыне і Віцебшчыне. У народзе В. т.





Вышыўка **выбіваннем** (фрагмент дывана).

**Выбарнае ткацтва.**

звычайна называюць перабіраннем. Для выбарных тканін характэрны рэльефны ступеньчата-геаметрычны арнамент, утвораны насцілам узорнага ўтку на фонавае палатно. Па тэхніцы выканання В. т. падобна на двухуточнае *бранае ткацтва:* узор перабіраецца на дошчачку-бральніцу і кожны атрыманы зеў фіксуецца спецыяльнымі матузкамі (паўнітамі) ззаду ніцоў. Аднак у В. т. ўзорны ўток закладваецца не па ўсёй шырыні тканіны, а асобнымі ўчасткамі (выбарна), што дае магчымасць больш свабодна кампанаваць узорныя элементы і рабіць больш разнастайнымі іх каляровую гаму. В. т. упрыгожвалі ручнікі, кашулі, андаракі (у залежнасці ад прызначэння тканін выкарыстоўвалі самапрадзеныя льняныя, а таксама пакупныя ніткі). *Віцебскія ручнікі* ткалі з выкарыстаннем чырвоных, сініх, жоўтых, чорных, зялёных нітак, для тканін Гомельшчыны характэрна спалучэнне белага, чырвонага і чорнага колераў. *М. М. Віннікава.*

**ВЫБІВА́ННЕ,** спосаб аздаблення тканін спецыяльнай ручной вышыўкай, што ўжываецца пераважна пры вырабе дэкаратыўных дываноў і невялікіх пано («макатак», «відокаў»). Лакальная назва набіванне. Як від нар. мастацтва В. распаўсюдзілася на Беларусі ў 1970-я г. Выконваецца пры дапамозе спецыяльнай полай іглы (з драўлянай ручкай), праз якую прапушчана нітка ад клубка. Асаблівасць тэхнікі В.—шчыльны пяцельны ўзор, які пакрывае ўсё поле тканіны. Арнаментальныя кампазіцыі выбіваных дываноў звычайна складаюцца з буйных раслінных матываў.

**ВЫГЛЯ́ДЗІНЫ,** абавязковы перадвясельны звычай, які заключаўся ў выяўленні фізічных даных і здольнасцей нявесты. Лакальныя назвы агляды, сугляды. У дом да дзяўчыны звычайна пад выглядам падарожніка або жорніка ехаў бацька жаніха. У хаце ён распачынаў гаворку на тэмы, зусім не звязаныя з мэтай яго прыезду, а сам у гэты час пільна прыглядаўся да дзяўчыны. В. нярэдка адбываліся ў час розных свят і кірмашоў. Калі дзяўчына спадабалася, вырашалі слаць да яе сватоў. *Л. А. Малаш.*

**ВЫГНА́ННЕ,** пакаранне людзей (звычайна парушальнікаў маральных, прававых або рэлігійных норм) шляхам выгнання іх з племя, абшчыны, горада. У перыяд першабытнаабшчыннага ладу было раўназначна смерці; у рабаўладальніцкім і феадальным грамадствах суправаджалася пазбаўленнем маёмасці і правоў. У гісторыі Беларусі феадальнага перыяду вядома таксама пад назвай баніцыя. Выкарыстоўвалася ў практыцы сялянскіх *копных судоў,* у гарадах з магдэбургскім правам і інш. В. служыла сродкам феадальнага прыгнечання залежнага насельніцтва. Перад В. людзей (выва́ланцаў) саджалі ў астрог, білі бізунамі; ім забаранялася вяртацца ў сяло, горад і нават набліжацца да яго бліжэй чым за 30 міль. *І. У. Чаквін.*

**ВЫ́ДЗЕЎБАНЫ ПО́СУД,** адзін з відаў драўляных ёмістасцей, прадметаў *даўбёжнага рамяства.* Па вонкавай форме падзяляецца на карытападобны і цыліндрычны (конусападобны). Карытападобны В. п. служыў для шматразовага паўсядзённага выкарыстання: карыты і *камягі* для кармлення хатніх жывёлы, ночвы для мыцця бялізны, пыланкі для правейвання круп, *карцы* для піцця. Цыліндрычны В. п., часцей з накрыўкай, ужываўся звычайна для захоўвання розных прыпасаў: *кадаўбы* на зерне, *ліпаўкі* на мёд, *фаскі* на масла ці мёд. Шмат В. п. цыліндрычнай формы рабілі ў форме пэўнага бандарнага посуду (кублы пад адзенне, бойкі для збівання масла, кадушкі на муку, жлукты для мыцця бялізны). Функцыянальная мэтазгоднасць і паўсядзённае ўжыванне абумоўлівалі сціпласць або поўную адсутнасць дэкору такіх пасудзін. Зрэдку такі посуд (карцы, сальніцы, фаскі) упрыгожвалі разьбой ці выпальваннем. У наш час В. п. амаль выйшаў з ужытку. *В. С. Цітоў.*



**Выдзеўбаны посуд.**

**ВЫКУП,** элемент вясельнага абраду; адгалосак старажытнага шлюбнага звычаю «куплі-продажу» (гл. *Умыканне і купля-продаж нявесты*) нявесты, таму звычайна звязаны з асобай маладой і рэчамі, што ёй належаць. Найчасцей абрад В. выконваецца па дарозе мала-

дога да маладой, у час прыезду да яе і калі яе забірае дружына маладога. Аднавяскоўцы маладой «прымушаюць» маладога даваць В. за яе як за члена абшчыны, калі ён пераязджае праз браму (рагатку), якую робяць перад вёскай, калі ўязджае ў двор, уваходзіць у хату маладой, выкупляе месца каля яе, саму маладую (у бацькоў і сябровак), яе касу (у брата). Абрад В. адбываецца на працягу ўсяго *вяселля*. Першы В. жаніх дае ў час *запоін* або *заручын* дзяўчатам за тое, што адбірае ў іх сяброўку, апошні пасля *завівання* маладой. Акрамя таго, жаніх пірагом «плоціць» дзяўчатам за нявесту ў *суборную суботу* вечарам або назаўтра раніцай, калі прыязджае па яе; выкупляе вянок, які зрабілі дружкі для яе, вывад яе з хаты, пасаг і інш. Характэрна, што В. атрымліваюць маці, брат або сястра маладой, а не яе бацька, што сведчыць пра сувязь абраду В. з эпохай матрыярхату. *Л. А. Малаш.*

**ВЫЛІЎКА**, драўляны коўш для вычэрпвання вады з судна, лодкі. На суднах, якія не мелі палубы і даху, існавала нават спецыяльная прафесія вадаліва. В. ўжываецца рыбакамі і ў наш час.

**ВЫПРАБАВА́ННЕ**, вясельны абрад, у час якога правяралі здольнасці і характар маладой, а таксама знаёмілі яе з гаспадаркай і будучымі абавязкамі ў новай сям'і. Узнік у выніку пераасэнсавання некаторых элементаў рытуалу далучэння маладой да роду маладога. В. адбывалася ў доме маладога пасля выканання абрадаў *каморы* і *завівання* маладой. Маладую ў суправаджэнні музыкантаў і ўдзельнікаў вяселля вялі па ваду да студні. Часам наперадзе ішоў дружка з завязаным на канцы палкі поясам. Маладая павінна была дастаць са студні два вядры вады і на каромысле, не разліўшы, прынесці яе дахаты (у некаторых мясцовасцях яна несла вядро з вадой на адным пальцы, каб паказаць сваю спраўнасць і сілу). На зрубе студні маладая пакідала піражок або шышку са свайго каравая, а да жураўля прывязвала ручнік, намітку або пояс уласнага вырабу. Часам піражок хто-небудзь з прысутных кідаў у студню, тады маладая за трэцім разам павінна была яго вылавіць вядром і занесці дадому. Піражок (паводле нар. уяўленняў ён меў цудадзейную сілу) са зруба забіралі жанчыны, дзялілі яго паміж сабой і тут жа з'ядалі, а ручнік (пояс, намітку) забіраў гаспадар студні. Ваджэнне маладой да студні раней азначала далучэнне яе да адной з жыватворных крыніц роду маладога, а дараванне піражка суседкам — плату за ўступленне ў групу замужніх жанчын. Прынёсшы ваду ў хату, маладая палівала яе ў першую чаргу на рукі бацькам маладога, а потым усім яго родзічам і падавала ім свой ручнік для выцірання. У такім жа парадку яна паіла гэтай вадой сваякоў. Астатнюю ваду маладая вылівала на лаўку і ў доказ сваёй акуратнасці чыста яе выцірала. Вада, прынесеная маладой, лічылася цудадзейнай (нібыта вылечвала ад балячак, давала сілу і бадзёрасць). Цудадзейнымі лічылі пірагі і бліны маладой, якія яна павінна была спячы і накарміць імі ў першую чаргу свякроў, а потым і ўсю радню маладога. У час прыгатавання цеста для пірагоў (бліноў) маладая клала на века дзяжы прывезены з дому піражок з цеста свайго каравая і пояс, а дзяжу накрывала куском палатна. Усё гэта забірала свякроў разам з паясамі, што маладая клала на прыпечак перад пячэннем пірагоў і на лапату, якой саджала іх у печ. У час пячэння для выпрабавання характару маладой сваякі спрабавалі насыпаць у цеста попел, смецце; перашкаджалі ёй, разлівалі ваду і рассыпалі смецце і тады, калі яна мяла хату. Маладая ад перашкод адкуплялася паясамі. Пазней прысутныя кідалі на падлогу дробныя манеты, цукеркі, што азначала плату маладой за падмятанне. Другаснае значэнне набыў і звычай пячэння маладой бліноў і частаванне імі сваякоў. Першапачаткова ён азначаў далучэнне маладой да ачага, роду маладога, а пазней — В. яе здольнасцей. Падмёўшы хату, маладая абвязвала венік поясам, а смецце да канца вяселля з хаты не выносіла. Пакуль замешанае на пірагі цеста падыходзіла ў дзяжы, удзельнікі вяселля бавілі час у танцах і спевах, маладая ж тым часам прыбірала бацькоў маладога ва ўсё прывезенае са свайго дома. У некаторых мясцовасцях свякроў перад гэтым знарок абвязвалася анучай. Прыбраўшы бацькоў маладога ва ўсё новае, маладая вяла іх у запечак і дапамагала ўзлезці на печ. Гэтымі дзеяннямі падкрэсліваліся будучыя абавязкі маладой у дачыненні да бацькоў маладога. У час В. маладую вазілі і на рэчку, дзе загадзя пасланая кабета мыла бялізну. Маладая павінна была ўдарыць некалькі разоў пранікам па намочанай бялізне і падараваць жанчыне чырвоны ваўняны пояс за «навуку» мыць. У час В. маладая насіла за пазухай піражок або шышку, спечаную з каравайнага цеста. Бацька маладога абводзіў маладую па ўсіх гаспадарчых будынках, дзе яна кідала чорна-белы пояс, які забіраў пастух. Правяралі таксама здольнасці маладой да прадзіва. Для гэтага да новай прасніцы прывязвалі кудзелю і маладая выпрадала некалькі нітак. Для В. сілы маладой дружка разразала качан капусты і складвала свае рукі накрыж так, што частку качана з правай рукі атрымліваў малады, а з левай — маладая. Маладая кідала сваю палавіну качана на печ, пад парог, біла аб сцяну, пакуль яго не разбівала. Сваякі маладога паказвалі маладой, як мясіць хлеб, мыць посуд, шуфляваць збожжа, грэбці сена, секчы і насіць дровы і г. д. Кожнаму, хто яе «вучыў», яна дарыла кавалак палатна або пояс. У больш позні час усе работы за маладую выконвалі яе сваякі, а часам і сваякі маладога, за што яна іх адорвала. У сучасным вяселлі В.ператварылася ў жартоўны абрад. *Л. А. Малаш.*

**ВЫПРАЎЛЕ́ННЕ**, вясельны абрад адпраўлення маладога да маладой перад вянчаннем, маладых да вянца, маладога па маладую пасля вянчання і маладой у дом маладога. Пры ўсёй сваёй разнастайнасці абрад В. мае шмат агульных рытуалаў. Перад В. м а л а д о г а д а м а л а д о й уся бяседа збіралася ў хаце маладога, бацькі якога частавалі дружыну. Выйшаўшы ў двор, дружына станавілася ў круг, а старшы *дружок* з сякерай у руках тройчы абходзіў усіх, шаптаў заклінанне, цюкаў сякерай у зямлю, а затым кідаў яе ўбок, аб'яўляючы, што па дарозе «воўк не нападзе і ў бяседзе маладой ніхто не прыробіць». Часам на панадворак выносілі самую вялікую патэльню, вакол якой станавілася ўся дружына: кожны ставіў на яе правую нагу і цалаваў абраз. Пры гэтым старшы дружок гаварыў: «Цалуйце божую міласэрнасць, каб стаяць адзін за аднаго, за адзіную кроплю крыві». Гэты рытуал захаваўся, відаць, з часоў родавага ладу, калі малады са сваёй дружынай адпраўляўся здабываць сабе жонку з другога роду. У абрадзе больш позняга паходжання дружок выводзіў жаніха з хаты і ставіў яго перад акном, дзе віселі абразы; за жаніхом урачыста выходзіла бяседа і станавілася паўкругам, канцы якога былі завернуты да дзвярэй хаты. У сярэдзіну паўкруга ставілі стол з хлебам-соллю і гарэлкай. У гэты момант дружок стаяў каля жаніха з запаленымі свечкамі і сачыў, каб яны не патухлі (інакш гэта магло пашкодзіць жаніху). Бацька жаніха, паддружы (сярэдні дружок) і сусед бралі па бутэльцы гарэлкі і, наліваючы ў чаркі, тройчы частавалі кожнага ўдзельніка бяседы. У гэты час маці жаніха клала ў вярэньку каравай, надзявала вывернуты поўсцю наверх кажух і абходзіла дружыну, абсыпаючы яе жытам, аўсом, хмелем, што трымала ў фартуху або апырсквала вадой, а рэшту вылівала пад капыты каня ці калёсы воза, на якім ехаў малады. Бацька маладога, узяўшы крысом сваёй вопраткі каня за аброць, выводзіў яго з двара. На воз першым садзіўся жаніх (раней ён з дружком ехаў конна), побач з ім садзілася родная сястра з елкай, якую маладому дарылі вясковыя дзяўчаты, сюды ж клалі і каравай. На іншыя вазы рассаджваліся дружкі, сваякі і ганаровы поезд стрымгалоў імчаўся да маладой. У час язды дружкі гукалі так, каб іх было здалёк чуваць. Перад В. м а л а д ы х  д а  в я н ц а бацька нявесты з пярвушкай (булачкай хлеба) тройчы абходзіў вакол вазоў для маладых, а сват бізуном крыж-накрыж біў па зямлі каля капытоў коней. Маладыя садзіліся кожны на сваім возе: нявеста ў кажусе (нават летам) або пакрытая вялікай чырвонай хусткай на першым возе з дружкай і свацця, а жаніх







Выцінанкі.

заўсёды ў шапцы на другім возе з дружком і сваёй сваццяй (раней ён ехаў конна). На асобным возе ехаў сват з музыкантамі. Маці абсыпала зернем вясельны поезд, які затым хутка імчаўся і нікому не саступаў дарогі. Жаніх і нявеста нярэдка ў час язды стаялі на вазах і кланяліся сустрэчным (маладому ў гэты час дружка здымаў шапку). Праязджаючы каля млына, маладая плаціла мельніку за тое, каб ён зняў застаўку з млына і пусціў ваду, каб у яе былі лёгкія роды. В. м а л а д о г а п а м а л а д у ю пасля вянчання адбывалася прыблізна такім жа парадкам, як і В. маладога да маладой.

Самым урачыстым і хвалюючым было В. м а л а д о й д а м а л а д о г а, якое працягвалася гадзіну і болей (называлася таксама пераносіны). У гэты час збіралася шмат народу і выконваліся розныя рытуальныя дзеянні, якія суправаджаліся варажбой і песнямі. Пасля бацькоўскага *благаславення* маладую сяброўкі падводзілі да кожнага з прысутных у хаце сваякоў для развітання і атрымання слова ў дарогу, пажадання шчасця на новым месцы. Маладая кланялася і цалавалася з кожным. Пасля благаслаўленняў і развітанняў сват падаваў знак музыкантам выканаць развітальны марш і ўся дружына, наперадзе якой ішоў бацька з каравайчыкам, а сват з караваем, выходзіла з хаты і садзілася на вазы. Часам, выходзячы з хаты, маладая тройчы садзілася на парог, развітваючыся з ім, плакала, а потым сплёўвала ў печ (у ямку з жарам), каб злыдні не пайшлі за ёю. У некаторых мясцовасцях маладая не павінна была датыкацца да парога, таму дружкі або сам малады пераносілі яе на руках цераз парог. Затым *дружко* вёў на ручніку маладых да першага воза. Малады садзіў маладую на воз так, каб яна не датыкалася нагамі да кола, калодкі, драбін (побач клалі і яе пасцель, перавязаную чырвоным поясам). Маладых звязвалі поясам і накрывалі адной або дзвюма наміткамі. Коньмі кіраваў звычайна старшы дружок *(павознік)*. Акрамя маладых на гэтым возе ехала *свяцілка* (свяцільніца), якая трымала каравай маладога і патушаныя вясельныя свечкі, загорнутыя ў кавалак палатна. Маладая вязла абраз, якім яе благаслаўлялі бацькі, за пазухай — шыпку або каравайчык, грэбень, міску і лыжку, а ў кішэні — авёс і жыта, якое ёй дала маці перад расставаннем для абсявання хаты маладога. У той час, як музыкі гучна выконвалі марш, дружына маладога выносіла з хаты «выкупленае» ў родзічаў маладой прыданае (гл. *Выкуп*) і ўсё, што трапляла ім пад рукі (часам яны намагаліся нават вывесці з хлява карову). Таварышкі маладой спрабавалі схаваць ад іх маладую, а малады павінен быў і яе выкупіць. Грывы коней і дугі вазоў, на якіх адпраўлялі маладых, упрыгожвалі кветкамі і разнаколернымі стужкамі, вышытымі ручнікамі. Выязджаючы з варот бацькоўскага дома, маладая кідала назад праз левае плячо пірог ля самых варот або ў канцы поля роднай вёскі, што сімвалізавала своеасаблівы выкуп. Маці маладой, як і ў папярэдніх В., абсыпала *вясельны поезд* зернем. В. да маладога заўсёды адбывалася позна вечарам з такім разлікам, каб прыехаць ноччу. Паязджанам пры В. давалі падарожную (пляшку з гарэлкай і чарку) на той выпадак, калі хто сустрэне і будзе патрабаваць выкуп за маладую. Каб заблытаць нячыстую сілу, часта ехалі ў аб'езд і не па той дарозе, якой ехалі да маладой. Хуткая язда тлумачылася тым, што нібыта ўсё ліхое павінна застацца ззаду (першапачаткова гэта было звязана, відаць, са звычаем выкрадання нявесты). Едучы праз вёску, нявеста або сваццця кідалі дзецям гускі, а пры спатканні з папом з воза кідалі жменю саломы, шпільку, пояс і іншыя дробныя рэчы, каб адхіліць няшчасце. Самай непажаданай лічылася сустрэча з другім вясельным поездам. Пры сустрэчы з фурманкамі, нават нагружанымі, або панскімі карэтамі вясельны поезд з дарогі ніколі не з'язджаў. Калі ў дарозе што-небудзь здаралася з вупражжу ці з возам (ламалася вось або кола), у маладых, паводле павер'я, чакалася кароткае або нешчаслівае жыццё. *Л. А. Малаш.*

**ВЫЦІНА́НКА,** ажурны ўзор, выразаны з белай, чорнай ці каляровай паперы. Лакальныя назвы выразанка, выстрыганка. На Беларусі найб. пашыраны аднаколерныя В., часам іх рабілі ў некалькі слаёў рознага колеру. Узоры геаметрычныя, раслінныя, радзей заамарфныя і антрапаморфныя. Паводле кампазіцыі В. падзяляюцца на замкнё-

ныя (у квадраце, многавугольніку, крузе — выразаліся з веерападобна складзенага ў 4—8 разоў аркуша паперы), рапортныя (паперу складвалі гармонікам) і сіметрычныя (аркуш паперы перагіналі папалам, у выніку ўзор складаўся з 2 палавін, напр., птушкі абапал вазона ці дрэва). У 19—1-й пал. 20 ст. В. выкарыстоўвалі для аздаблення інтэр'ера нар. жылля (фіранкі на вокны, падзоры на паліцы, вушакі дзвярэй, бардзюры на рамы і інш.). На З Беларусі чорнымі ці паліхромнымі В. аздаблялі беленыя сцены жылля. Узоры В. падобныя на ўзоры вышыўкі, ткацтва, размалёўкі і інш. відаў нар. мастацтва, у некаторых з іх (напр., фіранках) заўважалася імітацыя ажурных гардзінных тканін. У наш час круглымі В.-сняжынкамі аздабляюць аконныя шыбы ў навагоднія святы. Калекцыя В. зберагаецца ў Музеі старажытнабел. культуры ІМЭФ АН БССР. *Я. М. Сахута.*

**ВЫЦІРНЯЦКІ ГАЎРЫДНІК,** ліберскі гаўрыднік, афінскі (афеньскі) гаўрыднік, *умоўная мова* т. зв. лабараў — зборшчыкаў ахвяраванняў на будаўніцтва храмаў. Ёсць звесткі, што сабранае ішло на харчаванне лабараў і членаў іх сямей (а ў багатых — прадукты скормлівалі жывёле). Бытаваў В. г. у мяст. Іванава Кобрынскага павета. На думку Е. Р. Раманава, які запісваў В. г. у канцы 19 ст., носьбіты бралі пачатак ад грэчаскіх і афонскіх манахаў, якія з падзеннем Візантыі наваднілі землі ўсх. славян для збору ахвяраванняў на храмы і манастыры.

Лексіка В. г. паводле паходжання ўключала вузкія дыялектызмы (тыпу «трусня» — мука, «стэпра» — печ, «сіверка» — восень), агульнаўжывальныя словы, спецыяльна зацемненыя ўстаўкамі «ша-» («шалото» — балота, «нешалеко» — недалёка), «-имн-» («тонкимный» — тонкі, «товстимный» — тоўсты), запазычанні з інш. моў (з грэч. «хлюса» — царква, «клевый» — добры; з цыганскай «пяндж» — пяць, з ідыш «мэхер» — нож). У лексічных і словаўтваральных адносінах В. г. блізкі да *семежаўскіх жабракоў мовы,* ад якой адрозніваецца месцам націску ў слове, у галіне фанетыкі — асаблівасцямі зах.-палескіх гаворак, блізкіх да ўкраінскіх: мяккім «р» [параўн., «трэпез» (сем.) і «трепез» (В. г.) — стол], «і» на месцы «о», «е» ў новазакрытых складах [параўн., «бетак» (сем.) і «битак» (В. г.) — так], цвёрдымі губнымі і пярэднеязычнымі зычнымі [параўн., «мируля» (сем.) і «мыруля» (В. г.) — тыдзень]. В. г. блізкі да ўмоўнай мовы польскіх арыштантаў (параўн. «дэлька» і delka — вада). Граматычны лад — беларускі (напр., «Пнаймо ольвко кирити» — хадзём піць піва). Фальклорных твораў на В. г. не зафіксавана. *У. М. Свяжынскі.*

**ВЫШКІ,** насціл з дошак на бэльках пад страхой у сенцах і інш. гаспадарчых пабудовах. На В. звычайна захоўвалі розныя гаспадарчыя прылады, сена, салому.

**ВЫШЫЎКА,** від народнага дэкаратыўнага мастацтва; арнамент або малюнак, выкананы ўручную (звычайнымі або спецыяльнымі іголкамі, часам кручком і інш.) ці машынным спосабам на тканінах, карунках, скуры. Матэрыялам служылі льняныя, баваўняныя чырвоныя, сінія, чорныя (*забалаць, горынь, блахва*), белыя (белька), ваўняныя, зрэдку шаўковыя ніткі, бліскаўкі і інш. Для накладной В. (*аплікацыі*) ужываліся шнур, тасьма, стужкі, кавалкі каляровых тканін, скура і інш. В. аздаблялі жаночае (*галаўныя ўборы, кашулі, фартухі,* іншы раз *гарсэты,* зрэдку спадніцы) і мужчынскае (кашулі, шыйныя хусткі) *адзенне,* суконную і аўчынную вопратку, рэчы дэкаратыўна-абрадавага і бытавога прызначэння (ручнікі, абрусы, навалочкі, посцілкі і інш.).

В. зарадзілася ў эпоху першабытнай культуры і звязана з працэсам вырабу адзення. Удасканаленне яе тэхнічных сродкаў, арнаментальных форм, каларыстычных і інш. прыкмет праходзіла разам з развіццём прадзення, *ткацтва, пляцення,* фарбавальнай справы (гл. *Фарбаванне тканін*); залежала таксама ад сацыяльна-эканам. умоў, этнічных традыцый, рэлігійных вераванняў. Найбольш старажытныя ўзоры В. вядомы на рэштках археалагічных тканін (захаваліся пераважна шаўковыя), на скураным абутку, на футаралах, кашальках (12—13 ст.) — вырабах рамеснікаў з Полацка, Мінска, Турава, Давыд-Гарадка, Пінска, Слуцка, Гродна. Вырабы расшывалі каляровымі ваўнянымі, зрэдку шаўковымі ніткамі з характэрным арнаментам у выглядзе пляцёнкі, спіралепадобных завіткоў, канцэнтрычных кругоў, сэрцападобных фігур і інш.



**Вышыўка** насцілам па сетцы. Фрагмент абруса. Гарадскі пасёлак Шаркоўшчына.

Пра В. перыяду феадалізму сведчаць разнастайныя пісьмовыя крыніцы, што адлюстроўваюць распаўсюджанне вышываных рэчаў сярод пэўных слаёў насельніцтва (у т. л. сялянства), паказваюць перавагу В. ў параўнанні з інш. спосабамі арнаментацыі тканін, змяшчаюць звесткі пра перасмнасць традыцый мінулага. З развіццём капітал. адносін, адыходніцтва, з узмацненнем сувязі з горадам і ўплыву гарадской культуры патрыярхальны быт сельскага насельніцтва хутка разбураўся, што адбілася на традыцыйным адзенні, спосабах і характары арнаментацыі нар. тканін. У канцы 19—пач. 20 ст. В. бытавала (як і раней) пераважна ў форме хатняй вытворчасці для патрэб сям'і, што абумовіла яе глыбокую самабытнасць і ўстойлівасць стараж. мясцовых традыцый. Здаўна В. лічылася адным з неабходных заняткаў жанчыны (асабліва дзяўчыны-нявесты). Тканіны, арнаментаваныя В., узорным ткацтвам, былі абавязковым атрыбутам традыцыйных абрадаў сямейнага і каляндарнага цыклаў.



**Вышыўка** крыжыкам. Фрагмент ручніка. Вёска Карма Добрушскага раёна.

Тэхніка выканання нар. В. даволі разнастайная. Большасць швоў ужывалася выключна для ўпрыгожвання асновы. Існавала група традыцыйных дэкаратыўных швоў, злучальных і краявых (гл. *Абкіданне*) швоў. На Палессі і Падняпроўі здаўна выкарыстоўвалі розныя віды зборак (гл. *Маршчэнне*). У залежнасці ад тэхнікі выканання вылучаюць 2 групы швоў, верхашвы (па суцэльнай тканіне) і скразныя (для якіх выцягваецца пэўная колькасць нітак асновы і ўтку). Верхашвы падзяляюцца на лікавыя (выконваюцца па ліку нітак тканіны) і адвольныя (па контуру). Сярод лікавых швоў асобнае месца займае набор (нацяг, заваланне, працяг і інш.); пашыраны таксама швы *крыжыкам, пляцёнка,* сцяблісты, розныя віды *гладзі* (адна-,

двухбаковая і інш.), роспіс. Традыцыйныя верхашвы выконваліся чырвонымі, чырвонымі з нязначным дадаткам сініх (з канца 19 ст. чорных) нітак. Адвольныя швы — гладзь (простая, рэдкая), аплікацыя, *выбіванне* і інш. — найчасцей выкарыстоўвалі для стварэння паліхромных стылізавана-раслінных узораў. Строчка — В. па разрэджанай тканіне *(сакаленне, гафт)* сустракаецца пераважна ў форме вузкіх мярэжак, якімі ўпрыгожвалі кашулі, фартухі, наміткі, ручнікі і інш.

Арнамент В. утвараюць групы геаметрычных, раслінных, арнітаморфных матываў; сустракаюцца антрапаморфныя і зааморфныя выявы. Дамінуючымі здаўна былі старажытныя ромба-геаметрычныя кампазіцыі (характэрныя па ўсёй Беларусі). З канца 19 ст. ўсё большую папулярнасць набывала раслінная арнаментыка. В. захавала традыцыйнасць арнаментальных узораў (у той жа час





**Вышыўка** крыжыкам. Рукаў кашулі. 1900-я г. Вёска Клеявічы Касцюковіцкага раёна.

**Вышыўка** процягам. Намітка. Вёска Вялікія Чучавічы Лунінецкага раёна.

самабытную непаўторнасць рэгіянальных) больш дробных лакальных асаблівасцей. Фарміраванне іх праходзіла пад уплывам сацыяльна-эканам., гіст., этнакультурных, ідэйна-эстэтычных фактараў, прыродных умоў. Своеасаблівасць В. асобных арэалаў складаецца з шэрагу прыкмет — арнаменту, тэхнічных прыёмаў, колеравай гамы, матэрыялу, кампазіцыйнага размяшчэння ўзораў і інш. Заходнепалескай В. багата аздаблялі традыцыйныя прадметы нар. адзення — наміткі, фартухі, жаночыя і мужчынскія кашулі. Паводле характару арнаментальнага комплексу вылучаюць В. Кобрыншчыны, Маларытчыны, Брэсцкага р-на. В. Кобрынскага, Жабінкаўскага р-наў узбагацілі нар. мастацтва вытанчаным дробнаўзорыстым геаметрычным арнаментам у тэхніцы *процягу*. Кампазіцыя традыцыйна складаецца з некалькіх вузкіх бардзюраў чырвонага колеру з тонкімі лініямі сіняга або чорнага колеру. На Пд Кобрыншчыны ў 1-й пал. 20 ст. было пашырана аздабленне жаночага касцюма аплікацыяй з каляровага саціну. Спецыфіка В. Маларытчыны — у шчыльным, амаль дывановым запаўненні арнаментальнай паласы (узор выяўляўся прасветамі фону), класічнай трохчастковай кампазіцыяй (цэнтральны бардзюр у абрамленні больш вузкіх); своеасаблівая манументальнасць нацяганых узораў падмацоўвалася насычаным чырвона-карычневым каларытам. В. ў асобных вёсках Брэсцкага



**Вышыўка** процягам. Фрагмент фартуха. Вёска Пасека Старадарожскага раёна.

р-на (в. Прылукі і інш.) уласціва выкарыстанне бавоўняных нітак чорнага або карычнева-чырвонага колераў, адмысловыя геаметрычныя кампазіцыі ў выглядзе шырокіх нацяганых па вертыкалі ці дыяганалі палос. На Усх. Палессі В. характэрны больш яўная эвалюцыя традыцыйных узораў, разнастайнасць прыёмаў, каларыту, шырокае ўжыванне раслінных узораў. Характэрныя асаблівасці В. склаліся на Тураўшчыне, у цэнтральных раёнах паўд.-ўсх. часткі рэгіёна. У В. Тураўшчыны (Жыткавіцкі, Лельчыцкі р-ны) выразна прасочваюцца тры арнаментальныя пласты, якія паслядоўна зменьвалі адзін аднаго: у пач. 20 ст. манахромнае (чырвонае, белае) геаметрычнае шво выцеснілася В. раслінных узораў у выглядзе буйных дэкаратыўных руж чырвона-чорнага колеру; з 1930—40 пашыраны паліхромныя раслінныя ўзоры ў тэхніцы адвольнай гладзі. Асобны тып вылучаецца на тэр. Цэнтр. Палесся (Калінкавіцкі, Светлагорскі, Ельскі, Мазырскі р-ны), адметнасць якога ў яркай дэкаратыўнасці ўзораў, гарманічным спалучэнні геаметрычных і раслінных форм, абмаляванні шырокага асноўнага бардзюра разрэджаным падузорам. Ва ўзорах традыцыйнага шва 19 ст. пераважаў манахромны чырвоны каларыт, у больш позняй В. крыжыкам ён дапаўняўся чорным колерам. На Паўд.-Усх. Палессі (Брагінскі, Хойніцкі, Лоеўскі р-ны) В. прадстаўлена пераважна расліннымі чырвона-чорнымі ўзорамі на адзенні, ручніках, настольніках (абрусах), коўдрах, фіранках. Асноўныя тэхнічныя прыёмы — крыжык, гладзь, ажурнае расшыванне. У асобную зону вылучаюць В. Цэнтр. рэгіёна. У канцы 19— пач. 20 ст. традыцыйнае геаметрычнае нашыванне было распаўсюджана ад Пухавіцкага р-на на Пн да Лунінецкага на Пд і ад Клічаўскага р-на на У да Клецкага на З. Паводле асаблівасцей В. гэтага рэгіёна працягвае традыцыі стараж. палескіх узораў. Традыцыйная В. найбольш захавалася сярод насельніцтва Клецка-Капыльскага, Салігорска-Лунінецкага, Старадарожска-Пухавіцкага, Клічаўскага арэалаў. Клецка-Капыльскім В. уласціва строгая дакладнасць геаметрычных узораў, у аснове якіх часта ўжываліся паралельныя лініі аплсаных ромбаў, выкарыстанне тэхнікі набору, своеасаблівай лікавай аднабаковай гладзі, арнітаморфная арнаментыка ручнікоў, падобная да кралевецкіх (Сумская вобл.) укр. тканін. В. Старадарожскага р-на адрозніваюцца яркімі мастацкімі асаблівасцямі, беззаганнасцю тэхнічнага выканання дробнага ромбагеаметрычнага ўзору. Адмысловая стылістычная інтэрпрэтацыя традыцыйных узораў склалася на тэр. Салігорскага, Лунінецкага р-наў. Тут упрыгожвалі рукавы жаночых кашуль падоўжнымі і папярочнымі бардзюрамі, асноўны чырвоны колер дапаўнялі сінім, нярэдка ўключалі ў арнамент старажытныя салярныя матывы (крыжы і інш.). На У Цэнтр. рэгіёна (Клічаўскі р-н) В. упрыгожвалі традыцыйнае адзенне і ручнікі (папярочнае нашыванне-набор, каляровая мярэжка насцілам, крыжык). У арнаменце адлюстраваны даўнія і больш познія геаметрызавана-раслінныя матывы. На Панямонні даўнія традыцыі В. захаваліся ў Ваўкавыска-Камянецкім арэале. Яго арнаментальны комплекс падобны на В. Кобрыншчыны, але адрозніваецца больш простымі геаметрычнымі кампазіцыямі, нярэдкім спалучэннем геаметрычных і раслінных узораў, выкарыстаннем тэхнікі набору, крыжыка. Асобны рэгіён складаюць В. Падняпроўя, тэхніка выканання якіх разнастайная і даволі складаная. Ужываліся ліка-

выя швы, строчка, самабытныя дэкаратыўныя злучальныя швы. Каларыстычнае вырашэнне ўзораў — ад традыцыйных чырвоных, белых, чорных да чырвона-чорных, чырвона-белых. На Паднястроўі шмат агульнага ў В. Добрушскага і Гомельскага р-наў: асаблівасць узораў (сеткавыя кампазіцыі) з адзінкавых геаметрычных, раслінна-геаметрызаваных матываў — ромбаў, вазонаў, размешчаных у шахматным парадку на рукавах жаночых кашуль), упрыгожванне падолу кашулі арнаментальна-дэкаратыўнай палоскай, выкарыстанне геаметрычнага шва па зборках. У арнаменце вышываных ручнікоў папулярны раслінныя матывы. Устойлівыя традыцыі ўпрыгожвання жаночага адзення В. скласціся ў Буда-Кашалёўскім р-не; адна з асноўных яе тэхнік — двухбаковая лікавая гладзь чырвонымі і белымі ніткамі. Арыгінальны тып В. сфарміраваўся ў Чачэрскім, Краснапольскім р-нах; асабліва папулярны характэрныя кампазіцыі ў выглядзе сетак, уздоўж прамых ці касых ліній якіх размяшчаліся геаметрычныя (звычайна ромбы, разеткі) узоры ў тэхніцы крыжа. У в. Неглюбка Веткаўскага р-на В. упрыгожвалі жаночыя і мужчынскія кашулі; выкарыстоўвалася тэхніка набору, выраз, злучальная мярэжка насцілам і інш. Стараж. геаметрычныя ўзоры выконваліся забалаццю ці белькай. На Магілёўшчыне ў параўнанні з Гомельшчынай не назіраецца падобнай тыпалагічнай варыяцыйнасці В. Аднак і тут бытавалі зоны з пэўнымі мастацка-стылістычнымі асаблівасцямі: В. Клімавіцкага, Крычаўскага р-наў з дакладнымі формамі строга рытмічных стылізавана-раслінных кампазіцый на адзенні, ручніках. Традыцыйныя В. Магілёўскага р-на характарызуюцца спалучэннем тэхнікі нацягу і роспісу, тонкімі графічнымі лініямі строга геаметрычнага арнаменту. Асаблівасць В. Мсціслаўшчыны — у шырокіх геаметрычных чырвона-чорных вышытых крыжыкам бардзюрах на наплечніках жаночых кашуль. Устойлівасць кампазіцыйнай пабудовы ўласціва В. Касцюковіцкага р-на, сеткавы арнамент якіх выкананы дэкаратыўнымі злучальнымі швамі, крыжыкам. Прыкметна вылучаецца В. Віцебшчыны, дзе шырокае адыходніцтва (у т. л. жаночае ў канцы 19 ст.) садзейнічала хуткаму выцясненню традыцыйнага адзення касцюмам гарадскога тыпу. Таму В. тут часцей аздаблялі разнастайныя бытавыя прадметы — ручнікі, абрусы і інш. Тэхніка выканання самая разнастайная — гладзь, роспіс, строчка, крыжык. Для арнаменту характэрны не толькі геаметрычныя (8-пялёсткавыя разеткі, зоркападобныя фігуры) і раслінныя (выява «дрэва жыцця», квітнеючага вазона, хвалепадобнай галінкі) матывы, але і сімвалічныя антрапаморфныя, арнітаморфныя.

У бел. нар. В. шмат агульнага з В. суседніх народаў (рускіх, украінцаў, літоўцаў, палякаў). Традыцыйная В. бытуе ў сучасным нар. побыце, ёю ўпрыгожваюць дэкаратыўныя тканіны, у асобных раёнах аздабляюць абрадавы і сцэнічны касцюм. *В. Я. Фадзеева.*

**ВЭ́ЛЮМ** (ад лац. velum заслона), жаночы галаўны ўбор, лёгкае пакрывала з кісеі, шоўку, цюлю, карунак, якое спускаецца да плячэй, пояса, часам да ног. Вясельны В.— частка шлюбнага ўбору. Мацуецца да *вянка* або інш. галаўнога ўбору. Жалобны В. чорнага колеру.

**ВЯДРО́,** 1) бандарная пасудзіна цыліндрычнай формы, у якой носяць або захоўваюць ваду ці інш. вадкасці. Да двух процілеглых даўжэйшых клёпак з адтулінамі мацавалася дужка (восілка). 2) Даўняя адзінка вымярэння вадкіх рэчываў у сістэме мер Вял. кн. Літоўскага, роўная прыблізна 10 л. У сучаснай бел. мове слова В. не страціла значэння меры, але не з'яўляецца адзінкай вымярэння.



Бандарнае **вядро.**

**ВЯ́ЗКА,** адзінка колькасці сена, саломы, дроў, пянькі, лёну, абаранкаў і інш. В. не была метрычным тэрмінам, а ўжывалася як бытавая мера. Як адзінка колькасці была неаднолькавая. Напрыклад, адзінка колькасці льновалакна адпавядала 10—25 жменям.

**ВЯЛЕ́С,** язычніцкае бажаство ўсходніх славян. Лакальныя назвы Валос, Волас. В. лічылі апекуном жывёлагадоўлі (у помніку ўсх.-слав. летапісання «Аповесці мінулых гадоў» яго называлі «скоцій бог»), багацця (яго імем кляліся купцы і княжацкія дружыннікі), мастацтва, у прыватнасці паэзіі (у «Слове пра паход Ігаравы» княжацкі паэт Баян называецца ўнукам В.). З увядзеннем хрысціянства ў Кіеўскай Русі (канец 10 ст.) уяўленне аб В. паступова знікла. Яго галоўная функцыя — апекуна жывёлагадоўлі — нададзена хрысціянскаму святому Уласу (*Аўласу*), у гонар якога спраўлялі конскае свята (11 лютага с. ст.). У той дзень на конях не працавалі, лепш іх кармілі. Рэшткі культу В. доўга захоўваліся на Пн Расіі. Лічылі, што В. як апякун дамашняй жывёлы садзейнічаў і ўрадлівасці палеткаў. У канцы жніва пакідалі жменю нязжатых каласоў «Уласу на бародку». Звесткі пра культ В. захаваліся ў бел. тапаніміцы — назвах асобных азёр (Паўд. і Паўн. Волас), вёсак (Воласа, Воласава і інш.). *М. Ф. Піліпенка.*

**ВЯЛІ́КДЗЕНЬ,** веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх дзён» палявых работ; пазней да яго прымеркавана гал. хрысціянскае свята — «ўваскрэсенне» распятага Хрыста. Лакальныя назвы вялікане, вялічка. Паводле нар. павер'я на В., як і на *купалле*, сонца «іграе», або «купаецца» (сонца на бясхмарным небе абяцала багаты ўраджай, шчаслівыя вяселлі). У залежнасці ад месячнага календара В. прыпадае на час ад 4 крас. да 8 мая. Быў адным з самых радасных свят у жыцці земляроба. Адзначалі яго вельмі ўрачыста, гатавалі багата страў. Найважнейшыя бытавыя прыкметы і характэрная асаблівасць В. ў беларусаў — фарбаванне яек (гл. *Пісанкі*), гульні ў біткі, хаджэнне *валачобнікаў* і спяванне на першы дзень свята валачобных песень. Абрадавы сэнс іх — пажаданне селяніну перад пачаткам палявых работ плёну на ніве, прыплоду ў статку, добрага здароўя, шчаслівай долі ў сям'і. Да В. былі прымеркаваны таксама вялі-



**Вяндлярня.** Вёска Шчорсы Навагрудскага раёна.

кодныя песні, якія спявалі больш доўгі час. Яны мелі бытавы, пераважна гумарыстычны характар. З В. пачыналі вадзіць веснавыя карагоды. *А. С. Ліс.*

**ВЯНДЛІ́НА**, вянгліна, вэнджанае (правяленае ў дыме) прасоленае мяса, сала.

**ВЯНДЛЯ́РНЯ**, пабудова для вэнджання шынак, каўбас і інш. мясных прадуктаў, сала і рыбы. Найб. пашыраны вежавыя збудаванні з 4-схільнай ці шатровай страхой. Канструкцыя на В. падзялялася на 2 ярусы — на 1-м раскладалі агонь, на 2-м падвешвалі на жэрдках прадукты. Для ўсіх канструкцый В. характэрна шчыльная падгонка элементаў, каб пазбегнуць страты дыму. Толькі ўверсе для яго выхаду прарazалі адтуліны. На паліва выкарыстоўвалі лісцевыя пароды дрэў, асабліва сырую вольху, яблыню, тырсу, а таксама галлё ядлоўца. В. былі пашыраны па ўсёй Беларусі, у апошнія гады



Віты **вянок**. Кобрынскі раён.

сталыя збудаванні не робяць, а выкарыстоўваюць звычайную бочку без дна, злучыўшы яе накрытай траншэяй з невялікім паглыбленнем у зямлі для агню. Дым праходзіць па канаўцы ў бочку і акурвае прадукты. Больш халодны дым павялічвае якасць вэнджання. *У. С. Гуркоў.*

**ВЯНЕ́Ц** у зрубе, адзін гарызантальны замкнуты рад бярвён зруба, злучаных па вуглах урубкамі.

**ВЯНКО́ВАЯ КАНСТРУКЦЫЯ**, канструкцыйная сістэма ў нар. будаўніцтве, у аснове якой пакладзены адзін на адзін *вянцы*. На Беларусі вядома з 2—3 ст., з 9—13— асн. тып канструкцый драўляных пабудоў. Вянцы сцен злучалі ў зруб урубкамі па вуглах і тэблямі (драўляныя калкі, забітыя ў зробленыя ў вянцах адтуліны). Побач з В. к. на Беларусі выкарыстоўвалі *слупавыя канструкцыі*. *С. А. Сергачоў.*

**ВЯНО́К**, 1) упрыгожанне з кветак, зеляніны, стужак, паперы, пер'я і інш. ў форме кружка, які надзявалі на галаву. Паводле спосабу вырабу і аздаблення В. падзяляюцца на 4 віды. Віты В. з палявых кветак (адуванчык, валошка, рамонак), барвенку, руты насілі дзяўчаты летам. Такі В. быў неабходным атрыбутам многіх традыцыйных абрадаў, у т. л. *вяселля, купалля, куста*, а таксама *дажынак*, на які плялі В. з каласоў збажыны і кветак. Пашыраны па ўсёй Беларусі. В.-абручык рабілі з лазы, галінак дрэва і абгортвалі разнаколернай тканінай ці паперай; аздаблялі зелянінай, штучнымі кветкамі, васковымі ягадкамі; ззаду прывязвалі разнаколерныя стужкі, тасёмкі. Вядомы найбольш у Брэсцкім Палессі. В. на каркасе выраблялі з лубу, бяросты, кардону, накшталт сіта без дна (вышынёй 10—16 см) і абцягвалі тканінай. Звонку абшывалі акраў-



**Вянок** на каркасе. Жыткавіцкі раён.

камі каляровай матэрыі, папяровымі кветкамі, фарбаваным пер'ем, шклянымі пацеркамі; ззаду да верхняга краю мацавалі пук стракатых стужак і пярэстыя палосы тканіны (даўжынёй каля 90 см). Выкарыстоўвалі як вясельны ўбор у Зах. Палессі, Падняпроўі. В.-шапачку рабілі з гнуткіх дубчыкаў, якія перапляталі, каб закрыць верх. Вонкавую паверхню высцілалі штучнымі кветкамі або фарбаваным у зялёны колер пер'ем. Бытавалі ў Пінскім Палессі. Асаблівай разнастайнасцю і багаццем аздаблення вызначаліся В. на Палессі і ў Падняпроўі. В. надаваў постаці святочны, урачысты выгляд. У вясельным абрадзе быў сімвалам дзявочай чысціні; як убор нявесты сустракаецца ў сучасным вяселлі. 2) У некаторых мясцінах Беларусі — сінонім *суборнай суботы*. *М. Ф. Раманюк.*

**ВЯНО́К**, адзінка колькасці цыбулі, часнаку, грыбоў з няпэўным метрычным значэннем.

**ВЯРО́ВАЧНАЕ РАМЯСТВО́**. Выраб вяровак і канатаў вядомы з глыбокай старажытнасці. Сыравінай служылі крапіва, ліпавая кара *(лыка, мачала)*, а з часу вырошчвання канапель (1 ст. да н. э.) — пянькоeвае валакно, часам





**Вянок**-шапачка. Драгічынскі раён.

**Вянок**-абручык. Магілёўшчына.

лён. Канаты і розныя віды вяровак выраблялі з пянькі і пакулля. У беларусаў лыкавыя вяроўкі (*лычакі*) і мачальныя канаты бытавалі да 19 ст. Вяроўкі выкарыстоўваліся для ўвязвання і пераносу грузаў, вырабу *вупражы* і інш. Вяроўкі на ўласныя патрэбы здаўна вілі ў кожнай сялянскай гаспадарцы; у 2-й пал. 19 ст. іх вырабам займаліся сяляне-саматужнікі. Вяровачны промысел на Беларусі быў найб. пашыраны ў традыцыйных раёнах каналяводства і развітога суднаходства (Магілёўская, часткова Мінская і Віцебская губ.). З канца 19 ст. ў сувязі з павелічэннем фабрычных вырабаў саматужны вяровачны промысел пачаў занепадаць. З развіццём таварна-грашовых адносін прадукцыя промыслу паступала і на рынак. У канцы 18 ст.

заснаваны вотчынныя канатныя мануфактуры Зорыча ў Шклове і Пацёмкіна ў Крычаве. У 1860—80-я г. адкрыліся новыя канатныя і вяровачныя прадпрыемствы і майстэрні (з 5—20 наёмнымі рабочымі), якія належалі купцам і мяшчанам [у Ветцы, Прапойску (цяпер Слаўгарад), Круглым, Бялынічах, Рагачове, Віцебску і інш.]. Калекцыя віцебскіх вяровак экспанавалася на Усерасійскай прамыслова-мастацкай выстаўцы 1881. Пры Сав. уладзе рамеснікі былі аб'яднаны ў арцелі. Цяпер патрэбы гаспадарчых устаноў і жыхароў забяспечваюцца ў асноўным фабрычнай прадукцыяй. Вяроўкі, шнуры, канаты выпрацоўваюць Антопальскі, Расонскі і Мсціслаўскі прамкамбінаты. У некаторых вёсках і раённых цэнтрах наладжана традыцыйная вытворчасць вяровак для патрэб уласных гаспадарак і паводле заказаў калгасаў, саўгасаў, лесапрамгасаў. Замест пянькі майстры выкарыстоўваюць сінтэтычнае валакно. Карыстаецца папулярнасцю такі від маст. вяровачных вырабаў, як *макрамэ*. Тэхналогія В. р. на працягу стагоддзяў амаль не змянілася. Самая старажытная і прымітыўная прылада для віцця вяровак у 2—3 пасмы (столкі) — *кручкі* (з яблыні, лазы, бярозы, алешыны). Яны бытуюць у вёсках і ў наш час. Вяроўкі ў 2 столкі вілі таксама *круцёлкай*, якая знешнім выглядам нагадвала трызубец з дзяржаннем унізе і перакладзінай зверху. Для віцця больш тоўстых вяровак (3—6 столак) выкарыстоўвалі спецыяльны ручны станок, на якім працавала 2—3 чалавекі. Асн. дэталі станка: 2 дошкі з драўлянымі калкамі (корбамі), вертыкальна замацаваныя ў калодах, пакладзеных на зямлю. Станкі былі розных варыянтаў: адна з калод магла быць пераноснай або ставілася на колы. Традыцыйнае прыстасаванне для В. р. на Усх. Палессі — вертыкальнае кола. На Палессі яно сустракаецца і ў наш час.
*Н. І. Буракоўская.*

**ВЯРСТА́** 1) даўняя адзінка вымярэння даўжыні (адлегласці) у сістэме мер Вялікага кн. Літоўскага, роўная прыблізна 1554,6 м. На Беларусі ўжываліся дзве В. — В.=798 сажняў і В. в я л і к а я=1000, а ў 19 — пач. 20 ст. — р у с к а я В., роўная 1052 м.

2) Дарожны (верставы) слуп, што адзначаў гэту меру.

**ВЯРСТА́К**, спецыяльна абсталяваны стол для ручной сталярнай слясарнай і інш. работ; тое, што і *варштат* сталярны.

**ВЯРШНІ́К**, канструкцыйны элемент дзвярэй, які́ злучае ўверсе *вушакі*. Часам для большай выразнасці В. знізу падчэсвалі (рабілі яго выгнутым), што павялічвала і памеры праёму дзвярэй. Вядомы прыклады, калі на В. запісвалі або выразвалі год будаўніцтва ці даты іншых памятных падзей.

**ВЯРШО́К**, даўняя адзінка вымярэння даўжыні, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы мер. Роўная 4,4 см.

**ВЯРЫ́ГА** (Weryho) Уладзіслаў (9.6.1868, Пскоў — 27.8.1916), польскі філосаф і этнограф, збіральнік бел. фальклору. Доктар філасофіі (1892). Вучыўся ў ун-тах Варшавы, Берліна, Прагі, Берна. У 1898—1916 рэдактар час. «Przegląd filozoficzny» («Філасофскі агляд»). У час. «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Збор звестак па айчыннай антрапалогіі», 1889, т. 13) апублікаваў працу «Беларускія думкі з вёскі Глыбокае Лідскага павета Віленскай губерні, запісаныя ў 1885 годзе», у якой змясціў 45 бел. нар. песень. Друкаваўся і ў часопісе «Wisla» («Вісла»). Выдаў кнігу «Беларускія паданні» (Львоў, 1889), дзе змясціў 32 бел. нар. казкі з Лідскага пав. Аўтар працы «Латышскія паданні» (1892).
*І. У. Саламевіч.*

**ВЯРЭ́НЬКА**, 1) каробка, плеценая з лубу, бяросты, лазы. Лакальныя назвы вярэня, шанька. Мела розную форму (круглая, авальная, прадаўгаватая), з адной ці дзвюма ручкамі, з глыбокім вечкам і без вечка. Прызначалася для пераноскі прадуктаў і гароднiны. 2) Ганчарны выраб; маленькая гліняная місачка з увагнутымі беражкамі для кармлення дзяцей.

**ВЯРЭ́НЬКА** Францішак Леапольдавіч (15.3.1862, в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на — 4.3.1892), беларускі краязнавец і археолаг. Скончыў Мінскую гімназію (1881), Варшаўскі ун-т (1887). У 1886 за навуковую працу па нар. медыцыне ўзнагароджаны залатым медалём. Склаў археалагічную карту ваколіц Пуцілкавіч, на якой адзначыў 85 помнікаў старажытнасці. Выявіў і раскапаў шэраг гарадзішчаў жалезнага веку, значную колькасць курганоў раннефеадальнага часу. Запісваў таксама легенды і паданні роднага краю. У яго этнагр. калекцыі былі прадметы адзення і побыту, археалагічныя матэрыялы з Лукомля, Пуцілкавіч і інш. Рукапісы прац В. «Курганы у Пуцілкавічах (1887—92)», «Курганы і два дагістарычныя пасяленні ў Пуцілкавічах», археалагічныя карты, дзённік даследаванняў і частка прадметаў з раскопак зберагаюцца ў Кракаўскім археалагічным музеі.

*Літ.:* П о б о л ь  Л. Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Мн., 1979.
*Г. А. Каханоўскі.*

**ВЯСЕ́ЛЛЕ**, комплекс абрадаў і звычаяў у спалучэнні са шматлікімі фальклорнымі элементамі (песні, музыка, танцы, гульні, прыгаворы і інш.), якія суправаджаюць урачыстасць заключэння *шлюбу* і з'яўляюцца няпісаным юрыдычным актам зацвярджэння новай сям'і. Жывучасць вясельнай абраднасці тлумачыцца вял. важнасцю сям'і, звязанай з асноўнай умовай існавання народа — яго ўзнаўленнем. Згодна з паслядоўнасцю абрадавых дзеянняў традыцыйнае бел. В. падзяляецца, хоць і не заўсёды выразна, на тры асноўныя часткі: давясельную, або падрыхтоўчую (*выглядзіны, даведкі, сватанне, запоіны, аглядзіны, заручыны*); уласна вясельную (*суборная субота, каравай, пасад*, прыезд дружыны маладога да маладой, шлюб, пераезд да маладога, *камора, пасаг, завіванне, выпрабаванне* здольнасцей і характару маладой, падзел каравая, адорванне маладых); паслявясельную (цыганы, *пярэзвы*). У некаторых мясцовасцях суборную суботу і выпечку каравая лічаць падрыхтоўчай часткай В. У агульным цыкле В. значэнне гэтых частак неаднолькавае. Давясельная частка мае пераважна фармальна-бытавы характар, у час яе афармляецца пагадненне паміж бацькамі маладых пра заключэнне шлюбу. На гэтым этапе разам з побытавымі выконваюцца некаторыя традыцыйныя звычаі і абрады, без якіх пагадненне і іншыя падрыхтоўчыя акты не маюць неабходнай сілы. Паводле паходжання звычаі і абрады падрыхтоўчай часткі, як і сама падрыхтоўчая частка, належаць да параўнальна позніх састаўных элементаў бел. вясельнай абраднасці. Уласна В. займае галоўнае месца ў традыцыйнай вясельнай абраднасці і характарызуецца багаццем цырымоній, якія адбываюцца



Вярэнькі.

ў гэты час. Цэнтр. абрадам, уласна В., з'яўляецца *звядзенне* маладых, якое замацоўвае іх шлюб і злучае на ўсё жыццё. Заключная частка вясельнага цыкла мае пераважна гульнёвы характар.

Беларускае В. даволі поўна захоўвае стараж. слав. элементы, якія атрымалі ў ім сваё далейшае развіццё. Тлумачыцца гэта ў першую чаргу развітым у беларусаў *культам продкаў*, а таксама ў значнай ступені існаваннем розных веравызнанняў і абыякавасцю сялян да царквы. На Беларусі яшчэ ў 17—18 ст. пры заключэнні шлюбу карысталіся звычаёвым правам, царкоўнаму вянчанню надавалася малое значэнне. Багацце і развітасць бел. В. вынікаюць з прававвой сілы яго працэдур, якія павінны былі абавязкова выконвацца пры сведках (родзе, суседзях) і адыгрывалі функцыю дакумента аж да сярэдзіны 19 ст. Род даваў сваю санкцыю на шлюб пры дапамозе рытуальных дзе-

янняў (суправаджаліся яны выкананнем спецыяльных мастацкіх твораў), якія ўзаконьвалі маёмасныя, этычныя правы, адносіны і абавязкі будучай сям'і. Толькі з моманту В. маладыя прызнаваліся самастойнымі членамі *абшчыны*. Для маладой сям'і і яе роду (сялянскай абшчыны, членам якой яна з'яўлялася) адлік часу ішоў ад В., бо шлюбны акт азначаў пераход маладой пары да самастойнага жыцця і гаспадарчай дзейнасці земляроба. Таму сямейныя і земляробчыя матывы ў вясельнай абраднасці і паэзіі былі шчыльна пераплецены паміж сабой і сімвалізавалі дабрабыт будучай сям'і (нараджэнне дзяцей, урадлівасць).

У сялянскім жыцці шлюб адбываўся даволі рана: хлопец жаніўся ва ўзросце 19—20 год, дзяўчына выходзіла замуж у 17—18 год. Такі ранні шлюб тлумачыцца ўмовамі сялянскага жыцця: павелічэнне колькасці рабочых рук мела першачарговае значэнне для гаспадаркі. У большасці выпадкаў пры шлюбе не ўлічваліся ўзаемныя пачуцці маладых. Бацькі выбіралі нявесту для сына, атрымаўшы згоду толькі яе бацькоў. Пры выбары нявесты кіраваліся найперш тым, каб дзяўчына была добрай работніцай, не мела кепскай славы, вызначалася здароўем, паходзіла з роўнай або багацейшай сям'і (ад больш заможных гаспадароў можна было чакаць і большага пасагу). Такія патрабаванні датычыліся і жаніха. У час прыгоннага ладу прасілі згоды на шлюб у памешчыка, які часта з мэтай паляпшэння патомства сваіх падуладных жаніў слабага хлопца са здаровай дзяўчынай і наадварот. У кожнай мясцовасці была свая ўсталяваная пара шлюбу: у адных бралі шлюб пасля вялікадня, у другіх — пасля Пятра і Паўла, у трэціх — зімой. Але найчасцей жаніліся ўвосень ад пакроваў да калляднага посту: да гэтага часу ў сялян ужо ўсё сабрана з поля і больш шчодра можна было ўставіць бяседны стол, спадзеючыся, што гэткае багацце будзе і ў доме маладых. Таму бацькі і род імкнуліся як мага багацей справіць В., не шкадуючы выдаткаў.

В. было важнай падзеяй у жыцці маладых і ўсёй грамады. Гэтым у першую чаргу тлумачыцца дакладная распрацаванасць усіх сцэн і эпізодаў вясельнага абраду, ролі яго ўдзельнікаў. Кожная песня, прыгаворка, прыказка, прамова, абрадавы танец складалі абавязковую частку поўнага моманту рытуалу і строга падпарадкоўваліся яму. Абрад выяўляў афіцыйны і ў значнай ступені паказны бок вяселля і дыктаваў вусным паэтычным творам для кожнага моманту адпаведны змест.

В. з яго абрадамі, паэтычнай, музычнай і харэаграфічнай творчасцю выяўляе рысы нацыянальнага характару, адлюстроўвае развіццё розных грамадскіх уяўленняў, пачуццяў, светапогляду і ідэалаў народа. Падобна драматычнаму твору, яно мае завязку, кульмінацыю і развязку. Як і драма, вясельны сцэнарый падзяляецца на асобныя акты (этапы), сцэны (абрадавыя дзеянні). У вясельным прадстаўленні кожны ўдзельнік (дзейная асоба) выконвае сваю ролю і толькі так, як патрабуюць таго нар. светапогляд, традыцыя і этыкет. Кожнаму прысутнаму на В. адведзена пэўная роля з адпаведнай абрадавай назвай (маладая, або княгіня, малады, або князь, *сват і сваціця, дружка*, запарожцы і г. д). Тэрміналогія дзейных асоб вельмі складаная і мае лакальныя адрозненні. Спецыяльныя назвы маюць таксама розныя абрадавыя рэаліі і дзеянні. Самай актыўнай дзейнай асобай вясельнага музычна-драматычнага прадстаўлення выступае хор (род). Ён тлумачыць і санкцыяніруе драматызаванае вясельнае дзеянне, напамінае дзейным асобам пра іх абавязкі на кожным этапе В. У паэтычных творах апавядаецца і пра тое, што адбываецца, і пра тое, як усё павінна адбывацца адпаведна з існуючымі сацыяльнымі нормамі, ідэалам паводзін у нар. жыцці. У задачу хору ўваходзіць таксама эмацыянальнае ўздзеянне на маладых і ўсіх прысутных, бо В.— гэта відовішча, якое не проста забаўляе прысутных, а глыбока ўзрушае яго ўдзельнікаў, трымае іх у адпаведным псіхічным напружанні. Актыўнасці хору на В. працістаіць пасіўнасць яго галоўных герояў — маладых. Іх асабістыя перажыванні знікаюць пад покрывам разгорнутага сцэнічнага відовішча. Асабістае ў В. як бы растае ў грамадскім: у ім няма месца адкрытым і шчырым выказванням пачуццяў маладых, бо раней яны не былі гаспадарамі свайго лёсу, павінны былі выконваць волю бацькоў (роду). Самая актыўная роля ў В. належыць маці, брату, дзядзьку з боку маці (свату) маладых.

Характэрная рыса бел. В.—наяўнасць у ім стараж. рэлігійна-абрадавых і сацыяльна-бытавых элементаў, якія ўзыходзяць да эпохі матрыярхату і захоўваюць перажыткі і водгукі татэмістычных вераванняў і культаў (культ расліннасці, асабліва дрэў, жывёл, у прыватнасці мядзведзя, і нябесных свяцілаў). Ад эпохі родаплемяннога побыту вялі сваё паходжанне дзве стараж. формы заключэння шлюбу — выкраданне і купля-продаж нявесты, якія пазней былі заменены шлюбам па дамоўленасці. Выкраданне маладой (некалі «драма жыцця») з цягам часу пераўтварылася ў традыцыйную абрадавую гульню. Жыццёвыя сітуацыі, што разыгрываюцца ў час В., яго героі, іх дзеянні прадвызначаны і назаўсёды ўстаноўлены абрадам. У гэтым сэнсе нязменная і мова герояў: яна складаецца з устойлівых слоўных формул, прыгаворак, прыказак і г. д. Калектыўнае выкананне дзеянняў і песень, трывалая прывязанасць іх да абрадаў не дапускаюць адхіленняў ад векавой традыцыі. Усё гэта садзейнічала стварэнню агульнабеларускага вясельнага рэпертуару пры яго лакальных варыянтах і асаблівасцях. Рэгіянальныя асаблівасці — вынік складаных этнічна-гіст. працэсаў, што адбываліся ў сацыяльна-культурных групах розных рэгіёнаў. Вылучыць вясельны абрад якой-небудзь пэўнай мясцовасці ў якасці тыповага і асноўнага для ўсяго бел. В. немагчыма: у некаторых мясцовасцях не ўсе этапы В. развіты дастаткова поўна, у іншых трансфармаваліся або знікл, асобныя рытуалы часткова або поўнасцю перайшлі з аднаго этапа ў другі. Парушэнне паслядоўнасці і паўнаты выканання некаторых вясельных абрадаў адбылося і ў выніку прыняцця хрысціянства. Усё гэта ў значнай ступені адмоўна паўплывала і на вясельную тэрміналогію: у розных рэгіёнах Беларусі пэўны вясельны цырыманіял або яго элемент называецца па-рознаму, у іншых выпадках розныя па сутнасці цырыманіялы называюцца адным і тым жа тэрмінам. Але гэтыя змены не закранулі асн. стрыжня адзінага ў сваіх рысах бел. традыцыйнага вясельнага цырыманіялу.

Асобныя кампаненты структуры В. (слова, пластыка, музыка) развіваліся нераўнамерна. Абрадавае дзеянне ўзнікла раней, чым мастацкія элементы. У праславянскі перыяд абрад В. складаўся з адносна невялікай колькасці магічных дзеянняў, сэнс якіх раскрывалі кароткія песні заклікальнага і эратычнага зместу. Пасля 14 ст. пад уздзеяннем гіст. умоў жыцця бел. народа складваўся і стылістычна афармляўся вобразна-тэматычны пласт асноўнага фонду бел. вясельнай паэзіі. На пач. 17 ст. В. ўяўляла сабой шматсастаўны абрад з элементамі стараж. магіі, складанае драматычнае дзеянне з шэрагам разнастайных сцэн, мноствам дзейных асоб і яшчэ большай колькасцю гледачоў. Стварэнне розных відаў вясельнай абраднасці, яе функцыянальная перабудова і ўскладненне адбываласяя адначасова з развіццём побыту, сацыяльна-эканам. умоў жыцця бел. народа, грамадскай самасвядомасці і мыслення. Разлажэнне патрыярхальнай абшчыны і ўзмацненне класавай дыферэнцыяцыі, змяненне ў сувязі з гэтым светапогляду народа прывялі да паслаблення некаторых практычных функцый вясельнага абраду, страты першапачатковага значэння асобных яго рытуалаў, магічных дзеянняў або іх пераасэнсавання і адпаведных трансфармацый у песенным складзе. На вясельны абрад уплывалі свецкія і рэлігійныя традыцыі. У 19 ст. з развіццём капіталістычнага спосабу вытворчасці і распадам патрыярхальнай сям'і ў бел. В. паявіліся новыя матывы: павышаная ўвага да пасагу, нязгода маладых з існуючым сямейным укладам і г. д. В. набыло і нямала эстэтычных уласцівасцей, якія паступова ў працэсе гіст. развіцця пашыраліся па меры страты абрадам сувязей са стараж. формай жыцця. Відовішчны бок вясельнага абраду меў для народа не меншае зна-

чэнне, чым гаспадарча-эканамічны або абрадава-магічны. Адпаведна і паэтычныя творы, што суправаджалі вясельны абрад, вызначаліся разнастайнасцю зместу і формы. Пры гэтым многае ў іх, адлюстроўваючы рэальнае жыццё, выконвала абавязковую сцэну абрадавага дзеяння з яго магічнай традыцыйнай зададзенасцю. Усім элементам вясельнага дзеяння характэрна дэталёва распрацаваная сімволіка.

Вясельны абрад характарызаваўся проціпастаўленасцю элементаў яго бінарнага трыадзінства: месцам дзеяння (у хаце маладой і ў хаце маладога); дзейнымі асобамі (род маладой і род маладога); танальнасцю дзеяння (драматычнае, мінорнае — у маладой і святочна-ўзнёслае, мажорнае — у маладога). Такая генетычная прырода В. вызначалася сацыяльна-эканам. сутнасцю шлюбу. Акрамя гаспадарча-дзелавога, у бел. В. заўсёды падкрэсліваўся грамадска-маральны момант, які ў ідэале складае шчасце маладой пары і яе патомства. Гэтыя моманты ў немалой ступені вызначалі кампазіцыю В. і развіццё жанравага складу яго паэзіі. У залежнасці ад сацыяльна-бытавога становішча маладога і маладой вылучаліся 5 тыпаў В., для якіх характэрны свае асаблівасці: звычайнае, калі нявеста ідзе ў сям'ю жаніха; прымацкае, калі жаніх ідзе ў хату бацькоў нявесты (у прымы); сіроцкае, калі ў каго-небудзь з маладых няма бацькі або маці; удавецкае, калі шлюб бярэ ўдавец або ўдава; пакрыцкае, калі нявеста да вяселля страціла цнатлівасць або нарадзіла няшлюбнае дзіця. Паміж гэтымі тыпамі існавалі значныя этнагр.-фальклорныя адрозненні. В. першых двух тыпаў падобныя паміж сабой (толькі ў прымацкім В. адсутнічалі абрады, якія суправаджалі адпраўленне нявесты ў дом жаніха, а для маладога спяваліся прымацкія песні пераважна гумарыстычнага зместу). На сіроцкім В. ролю бацькоў выконвалі хросныя бацькі, а калі іх не было, то замянялі самыя блізкія сваякі. Пры гэтым, акрамя звычайных вясельных, спявалі і спецыяльныя вясельныя сіроцкія песні, блізкія зместам і танальнасцю да галашэнняў. У суборную суботу або ў наступны дзень раніцай маладая (малады) ішла на могілкі да бацькоў, галасіла і прасіла ў іх благаславення. Калі жаніх і нявеста ўдаўцы, то В. абмяжоўвалася царкоўным вянчаннем без традыцыйных абрадаў. Калі ў шлюб уступалі ўдавец або ўдава, то В. спраўлялі тое, што яго яшчэ не меў. На такім В. спявалі таксама і спецыяльныя песні на тэму «Як ідуць за ўдаўца».

Абрад бел. В. ў большасці момантаў супадае з вясельным абрадам інш. слав. народаў, паэтычная ж творчасць В. значна адрозніваецца. Тлумачыцца гэта ў першую чаргу тым, што асноўны фонд вясельнай паэзіі славян фарміраваўся ў больш позні перыяд, чым сам абрад, калі жыццё слав. народаў характарызавалася рознымі сацыяльна-эканам., паліт. і культурнымі ўмовамі. Найбольш блізкая да бел. вясельнай паэтычнай творчасці ўкраінская, што вынікае з умоў сумеснага грамадска-паліт. жыцця бел. і ўкр. народаў у 14—17 ст., у перыяд складвання іх вясельнай паэзіі.

Сучаснае бел. В. захавала лепшыя нар. традыцыі і звычаі, пазбавілася рэлігійных элементаў і ўстарэлых абрадаў. В. стала грамадзянскім святам нараджэння новай сям'і, якая грунтуецца на ўзаемным каханні, сацыяльным і юрыдычным раўнапраўі мужчыны і жанчыны. У першыя гады Сав. улады паявіліся «чырвоныя» вяселлі. Але яны не прывіліся, таму што не мелі глыбокай эмацыянальнай насычанасці, цалкам адмаўлялі старую абраднасць. У наш час папулярызуецца камсамольскае В. Многія элементы традыцыйнага В. выпалі, а само яно набыло пераважна гульнёвы характар. Урачыста адбываецца рэгістрацыя шлюбу ў сельсавеце, Доме ці Палацы шлюбу. В. часта спраўляецца ў рэстаране з аркестрам. Маладыя едуць у ЗАГС (сельсавет) на легкавых машынах, упрыгожаных стужкамі, лялькамі і г. д. Сваты перавязаны традыцыйнымі ручнікамі. Некаторыя этапы традыцыйнага В. захоўваюцца, але ў рознай мясцовасці не ў аднолькавай ступені. Бываюць і ў наш час заручыны, суборная субота, прыезд маладога да маладой, гулянне ў хаце маладой, велічанне, адорванне, пераезд да маладога, гулянне ў яго хаце, дзяленне каравая (торга), «цыганы», пярэзвы. Паўсюдна захоўваецца сустрэча маладых бацькамі хлебам-соллю і абрад выпечкі каравая. Склаліся новыя цырыманіялы, якія суправаджаюць В.,— ускладанне маладымі кветак да Вечнага агню, помнікаў сав. воінам і партызанам. *Л. А. Малаш.*

**ВЯСЕ́ЛЬНАЕ ЗАСТО́ЛЛЕ**, святочнае частаванне гасцей у час *вяселля.* Адбывалася некалькі разоў, пачынаючы з *заручын* і канчаючы «цыганамі» (гл. *Вясельныя гульні*). У застоллі прымалі ўдзел розныя групы вясельнікаў: род маладога разам з родам маладой на заручынах і на вясёлым піры; кожны род паасобку перад ад'ездам маладога да маладой у яго доме і перад прыездам маладога ў доме маладой; каравайніцы ў доме маладога і доме маладой у час выпякання каравая; прыданкі ў доме маладога; суседкі з яешняй у доме маладога ці маладой; дружкі маладой, калі іх частавалі пірагом маладога, які прывозіў сват, а таксама ў *суборную суботу* ў час развітання маладой са сваімі сяброўкамі і дружкі маладога на хлапечніку ў час развітання яго са сваімі сябрамі; маладыя, калі іх частавалі ў клеці або ў хаце перад шлюбнай ноччу і пасля яе. Самым урачыстым быў агульны, т. зв. вясёлы пір са шчодрым і багатым частаваннем, які меў рытуальны сэнс злучэння родаў маладых, а таксама замацоўваў шлюбныя пагадненні. У застоллі існаваў выпрацаваны стагоддзямі этыкет, згодна з якім кожны з вясельнікаў займаў належнае яму месца за сталом. Раней на В. з. ставілі тры сталы: галоўны, сярэдні і той, што стаяў у парозе. Самым ганаровым месцам за галоўным сталом была покуць, куды, абвёўшы тройчы вакол стала, садзілі на вывернуты кажух або падушку маладых, побач з маладой — яе радню па ступені блізкасці сваяцтва, а побач з маладым у такім жа парадку — яго радню (у некаторых мясцовасцях на куце сядзелі хросныя бацька і маці). У тым выпадку, калі маладую першы раз прывозілі да маладога, маладых саджалі не за першы, а за другі стол. Пазней ганаровае месца займалі таксама найбольш заможныя людзі. За апошні стол раней садзілася моладзь, падзеленая пэўнымі чынамі, а ў больш позні час яна займала месца бліжэй да маладых у залежнасці ад ступені сваяцтва і сяброўства.

Раней піва ставілі ў гліняных місках, з якіх яго чэрпалі лыжкай, налівалі ў кілішак і пускалі ўкругавую па застоллю. Першы, каму налівалі чарку, не выпіваў, а са словамі «каб высока раслі, крута бегалі і здаровыя былі» або «каб бог даў шчасця» выплёскваў яе на столь. На працягу ўсяго вяселля закуску да маладога вазілі ад маладой і наадварот. Акрамя таго, усе ўдзельнікі вяселля (*дружына*) і ў маладога і ў маладой абавязкова ўносілі ў В. з. сваю долю закускі і выпіўкі ў залежнасці ад колькасці ўдзельнікаў з кожнага боку. Гаспадары абавязаны былі частаваць і прымушаць гасцей есці і піць, нават насуперак іх жаданню, а госці павінны былі спачатку адмаўляцца і брацца за яду толькі пасля настойлівых угавораў. Калі ж гаспадар і гаспадыня не вельмі настойвалі, частуючы гасцей, гэта азначала, што яны скупяцца, шкадуюць (казалі: «Усяго было многа, только прынукі не было»). Маладыя ў час застолля не елі, іх частавалі асобна, не на людзях, каб, як лічылася ў народзе, хто-небудзь не сурочыў. Пазней пра гэту прыкмету забыліся, і асобнае частаванне маладых тлумачылася іх сарамлівасцю. У час застолля ў маладога маці маладой не ела, каб, згодна з павер'ем, «вынасціць» шчасце для сваёй дачкі. Акрамя В. з. ў хаце маладой яе бліжэйшыя сваякі запрашалі сваякоў маладога на частаванне ў свае хаты і наадварот (гл. *Пярэзвы*). У наш час В. з. страціла строгую рэгламентацыю, аднак засталося адным з асноўных рытуалаў вяселля. *Л. А. Малаш.*

**ВЯСЕ́ЛЬНЫ ПО́ЕЗД**, урачыстае шэсце ўдзельнікаў вясельнага абраду на падводах, вярхом на конях, на аўтамашынах або пехатой: маладога са сваёй дружынай у дом маладой, маладых да шлюбу і ад шлюбу і ў дом маладога. Удзельнікі В. п. маладога называюцца паязджанамі, а В. п. маладой — прыданкамі.

**ВЯСЕ́ЛЬНЫЯ АБРА́ДАВЫЯ СТРА́ВЫ**, рытуальныя стравы, якія ўжывалі

ў час *вяселля*, перад выкананнем пэўных абрадаў або пасля іх. Акрамя *каравая* абавязковымі былі смажаная або вараная курыца, яешня, мёд, сыр і пірог. Курыца, якая сімвалізавала пладавітасць, а раней выступала, відаць, у якасці ахвярапрынашэння, была адным з галоўных кампанентаў В. а. с. Пры выпраўленні маладой да маладога ёй давалі смажаную курыцу, якой яна частавалася з маладым пасля першай шлюбнай ночы (маладыя елі яе, раздзіраючы рукамі на кавалкі). Часам бацькі давалі маладой жывую чорную курыцу, якую па прыездзе ў хату маладога яна пускала ў падпечак, а частавалася разам з маладым яго смажанай курыцай. У паўн.-ўсх. рэгіёнах абавязкова ўжывалі пірог з начынкай з курынага мяса або пірог, пасярэдзіне якога была курыная галава, зробленая з цеста (такі пірог называўся курнікам). Абавязковымі стравамі былі таксама яешня і сыр — на заручынах імі «заядалі» шлюбны дагавор («Дзеўку заручылі, заелі яешняй і сырам»). На Гродзеншчыне пасля дасягнутага паразумення маладая ўручала маладому сыр-«злюбленік», якім малады частаваў сваю сям'ю. Яешню, мёд і сыр давалі маладым перад першай шлюбнай ноччу або пасля яе (яны павінны былі есці адной лыжкай). На Навагрудчыне маладыя ў клеці з'ядалі толькі хлеб, сыр і мёд, а яешню прысутныя расхоплівалі з патэльні рукамі. Калі маладая была цнатлівай, свякроў частавала яе і ўсё застолле яешняй, упрыгожанай кветкамі з цеста, калі не, на стол падавалі пакалупаную яешню і мёд. Абавязкова кожная са сваёй яешняй на жартоўнае вяселле прыходзілі суседкі (гл. *Вясельныя гульні*). Сімвалічнае значэнне меў і мёд. Калі апошні раз маладой часалі касу перад шлюбам, а таксама перад завіваннем, грэбень макалі ў мёд. Маці маладой і маладога, сустракаючы сваіх дзяцей пасля шлюбу і ў час прыезду маладых у дом да маладой, давалі ім пакаштаваць на лыжцы або на пальцы па крышачцы мёду ці мазалі мёдам вусны. Калі маладая не захавала цнатлівасць да шлюбу, яе бацька павінен быў выдраць свае пчолы і пачаставаць гэтым мёдам сваякоў. Калі ж маладая была цнатлівай, малады ад імя сваёй маці вёз пірог з мёдам і сырам да маці маладой; гарэлку і кашу запраўлялі мёдам і частавалі імі ўсіх гасцей (гл. *Салодкая гарэлка, Салодкая каша*). Маці маладой, сустрэўшы зяця, частавала яго яешняй. Сыр служыў выкупам за маладую, які маці маладога прысылала са сватам дружкам маладой напярэдадні вяселля. Сыр для маладой пасылала і маці з прыданкамі, каб маладая з'ела яго разам з маладым або пасля першай шлюбнай ночы аддала свекрыві. Часам малады вёз цешчы не пірагі з мёдам, а сыр, загорнуты ў ручнік, а ў час падзелу каравая вясельнікам разам з кавалкам каравая давалі таксама па кавалку сыру. Акрамя пералічаных страў абавязковымі на вяселлі былі пірагі, якія раней пяклі з каравайнага цеста, а пазней — са звычайнага і якія суправаджалі выкананне амаль усіх абрадаў. Пасля першага пачастунку ў маладога яго дружкі выводзілі маладых з-за стала і здымалі пакрывала з галавы маладой двума пірагамі. Піражок (пышку) пад пахай насілі малады і маладая, пачынаючы з пасада, з піражкамі яны ехалі ў царкву, да маладога, ішлі ў клецъ або выходзілі з яе, маладая першы раз з піражком ішла па ваду і г. д.

*Л. А. Малаш.*

**ВЯСЕ́ЛЬНЫЯ ГУ́ЛЬНІ**, тэатралізаваныя жартоўныя прадстаўленні, якія выконваліся ў час *вяселля*. Былі, відаць, адгалоскам пэўных вясельных абрадаў, значэнне якіх паступова сцерлася, а самі гульні ператварыліся ў звычайную пацеху. Самай распаўсюджанай гульнёй было жартоўнае вяселле падстаўных «маладых». Замест маладога за стол садзілі старога мужчыну або старую жанчыну, апранутую ў падранае мужчынскае адзенне, з падмаляванымі вусамі і барадой, а замест маладой — старога мужчыну (жанчыну), апранутага ў падранае жаночае адзенне (замест вэлюма надзявалі рыбацкую сетку, падраны ручнік, вянок з гарохавіння або саломы, косы рабілі з канапляная кудзелі, пярсцёнак — з хлебнага мякішу). Побач з імі садзіліся не родныя маладых, а суседкі з прыгатаванай імі самімі яешняй. Да прыезду маладых яны выконвалі ўсе традыцыйныя рытуалы: «маладых» садзілі на пасад, звозілі, крычалі ім «горка», а ў канцы пераадзеты «поп» «вянчаў» старым венікам і абводзіў вакол ступы. Іх адорвалі жартоўнымі падарункамі: катом у шапцы, пеўнем у кажуху, абяцалі таго каня, «што не дагоніш вакол сяла» (вераб'я), таўкачом, чапялой і інш., а потым вазілі на ламанай падводзе вакол вёскі і перакульвалі ў роў. Часам ролі падстаўных «маладых» выконвалі самі бацькі, калі выдавалі замуж або жанілі апошняе дзіця. Калі бацькі ці сваякі маладой прыязджалі праведаць яе, каля іх садзілі пераадзетую «маладую» або ставілі ступу з надзетай на яе спадніцай і завязанай хусткай, а тая «скардзілася» на сваё цяжкае жыццё. Ступу ў выглядзе маладой адзявалі і пасля ад'езду яе з дому: яе частавалі, спявалі ёй песні, а ступа («маладая») «дзякавала» і «кланялася». Пасля прыезду маладыя павінны былі выкупіць у падстаўных «маладых» месца за сталом для сапраўднага вяселля. Пасля заканчэння вясельнага застолля перад провадамі маладых у клець адбывалася гульня, якая сімвалізавала «роды» маладой. Для гэтага ў якасці «парадзіхі» выбіралі жанчыну з боку маладой і клалі ў пасцель разам са спавітым кацянём («нованароджаным»). Для ўяўнага «нованароджанага» выбіралі «бацьку», «кумоў», а для «парадзіхі» — «бабку-павітуху». Пасля каморы рабілі таксама ляльку з ануч, спавівалі яе і клалі маладой на калені, каб яна імітавала кармленне, ляльку насілі па хаце, давалі патрымаць яе маладому і да т. п. (у аснове гэтай гульні ляжаў старажытны магічны абрад, які павінен быў стымуляваць нараджэнне дзіцяці). У канцы вяселля адбываўся маскарад (машкарада), калі мужчыны пераапраналіся жанчынамі і наадварот. Вясельнікі пераапраналіся таксама ў «цыганоў», «венграў», «яўрэяў», «салдата», «доктара» і інш. і хадзілі па хатах, збіраючы розны харч, грошы, «варажылі», «лячылі», «арыштоўвалі», кралі курэй, парасят і ўсё гэта неслі ў хату, дзе адбывалася вяселле. «Цыганы», якія збіраліся ў доме жаніха, ішлі да бацькоў нявесты і наадварот. Па дарозе яны спявалі песні, білі ў засланкі, пускаліся ў скокі, збіраючы шматлікіх гледачоў. «Доктар» закутваўся ў прасціну, браў таўкач у якасці трубкі і гарэлку замест лекаў. «Салдатам» для аховы парадку звычайна апраналася жанчына. Адна з В. г. звязана са старшым сватам (шаферам), якога абувалі ў лапці, «брылі» палкай або трэскай, рабілі для яго вянок і вешалі на шыю, апырсквалі адэкалонам або вадой. За гэта патрабавалі «плату» (звычайна грашыма), за якую прыданкі куплялі сабе цукеркі. У некаторых мясцовасцях пераапранутыя вясельнікі вадзілі па хатах пеўня, просячы міласціну. У В. г. прымалі ўдзел не толькі ўкладальнікі, але і старонція гледачы. Так, у гульні «кабыла» двое мужчын, пераапранутыхся канём (з конскай маскай, хвастом і накрытыя куском палатна), пасля падзелу каравая скакалі перад маладымі, вазілі на сабе аднаго з *запарожцаў* (за гэта іх частавалі).

*Л. А. Малаш.*

**ВЯСЕ́ЛЬНЫЯ МУЗЫ́КІ**, музыканты, якія ігралі на *вяселлі* ад заручын і да яго канца. Раней вяселле абслугоўваў адзін В. м., на Пн Беларусі ён іграў на дудзе (яго называлі дудар), на Пд — на скрыпцы (музыка). З аслабленнем абрадавай часткі вяселля ў суправаджэнні дуды ці скрыпкі адбываліся толькі рытуальныя моманты, а ўсе гульнёвыя — у суправаджэнні інш. інструментаў. Пазней, калі на Пн на вяселлі пачалі іграць на скрыпцы, цымбалах, жалейцы, кларнеце, бубне, барабане, а затым і на гармоніку — усё роўна выканаўцаў называлі дударамі. Аднак, калі ігралі на дудзе і скрыпцы, казалі: «Іграе дудар і музыка». Толькі ў самы апошні час, калі дуда стала рэліктавай рэаліяй вяселля, дудар у складзе музычнага аркестра стаў называцца В. м. На вяселлі дудар займаў пачэснае месца. Перад ад'ездам маладой да шлюбу дудар, іграючы на рагаўні, узначальваў урачыстае шэсце, якое тры разы абыходзіла вакол стала баярак, за імі ішла, галосячы, княгіня (маладая). На сірочым вяселлі дудар замяняў нават бацькоў і, згодна з рытуалам, спецыяльнай сушчальнай песняй у форме дыялога адпраўляў маладых на шлюбную пасцель. З цягам часу вядучую ролю

на вяселлі стаў адыгрываць скрыпач. В. м. мог быць толькі сваяк маладога, нават у тым выпадку, калі ён не ўмеў іграць. Таму нярэдка са скрыпкай, часта пазычанай, прыязджаў «музыка» толькі па назве. Калі пачыналіся танцы, ён няўмела цягнуў некалькі разоў смыкам па струнах, а потым аддаваў інструмент сапраўднаму музыку. У народзе лічылася, што В. м. валодаюць звышнатуральнай сілай, таму яны і іх інструменты ўдзельнічалі ў розных абрадавых дзеяннях. Так, смычком В. м. бацька маладой здымаў з яе пакрывала і закідваў на печ; перад тым, як пачаць іграць вяселле, В. м. вырэзвалі з сярэдзіны каравая кружок, у выразаную ямку клалі соль і, уліўшы туды некалькі кропель піва, заклікалі: «Як падразаем гэты хлеб, каб так падразала хвароба ўсіх, хто нам зычыць зла, хто можа пашкодзіць урокамі і закляццямі». У выпадку неабходнасці адзін з В. м. замяняў жаніха ў першую шлюбную ноч. Галоўнымі атрыбутамі В. м. былі адзін або два ручнікі, перавязаныя адпаведна праз правае плячо ці накрыж. Музычныя інструменты павязвалі каляровымі паясамі, зробленымі нявестай; калі маладая была цнатлівай, пояс на скрыпцы завязвалі бантам. Спецыяльна для В. м. у знак удзячнасці за ігру пяклі з каравайнага цеста булку ў форме скрыпкі (казалі: «пякуць музыку»), а ў час падзелу каравая музыкам аддавалі звычайна спод або рэшткі непадзеленага каравая разам з ручнікамі. Века ад дзяжы, на якім ляжаў каравай, музыкі качалі да парога, калі яно дакочвалася да печы, лічылася, што маладая будзе добрай гаспадыняй. На ПдЗ Беларусі музыкі, узлезшы на палаці або стол, забаўлялі прысутных жартоўнымі небыліцамі. На заручынах музыкі ігралі т. зв. заручынскую, або запоінскую, мелодыю. Мелодыю «вяселле» пачыналі іграць толькі пасля абраду благаславення для кожнага з маладых паасобку ў іх доме перад пасадам. Калі ішлі да клеці падымаць маладых пасля шлюбнай ночы, В. м. выконвалі мелодыю «на добры дзень», а пры сустрэчы маладых — «вітанне». У найбольш урачыстыя моманты вяселля В. м. выконвалі маршы. Пры сустрэчы В. м. маладога з В. м. маладой яны віталіся, кланяліся адзін аднаму, абменьваліся пірагамі, выконвалі разам агульную мелодыю «вяселле», а затым спаборнічалі паміж сабой: кожная група музыкаў імкнулася як мага лепш паказаць сваё музычнае майстэрства ў выкананні вясельных мелодый.

*Л. А. Малаш.*

**ВЯСЕ́ЛЬНЫЯ ТА́НЦЫ,** абрадавыя скокі, якія выконвалі ўдзельнікі *вяселля* на пэўных яго этапах. Часцей за ўсё вяселле адкрывала (у суборную суботу, як саўюць вянок, або ў нядзелю раніцай) пачынальным В. т. (да гэтага ніхто не танцаваў) маці маладога або маладой з маленькай булачкай пад пахай, у наш час — маці разам з бацькам. Прытопваючы, яны тры разы павольна ўкругавую абходзілі хату, пры гэтым тройчы перакручваліся. Пасля пачыналіся агульныя танцы, якія ў доме маладой часам адкрывала сама нявеста, у доме маладога — жаніх. Пасля перапівання маладой у суборную суботу маці маладога павінна была выканаць В. т. з маці маладой. Пасля шлюбу, як толькі маладыя ад'язджаў у свой дом, маладая са сваімі роднымі, закусіўшы за сталом, выходзіла ў сенцы, клікала хроснага бацьку, а калі ён адсутнічаў, каго-небудзь са сваякоў. Узяўшыся за рукі, яны павольна кружыліся ў пары некалькі разоў, за што нявеста падносіла хроснаму бацьку падарунак — палатно хатняга вырабу (да трох аршынаў) і пояс. Пасля гэтага пачыналіся агульныя скокі моладзі ў сенцах пад дуду, пазней — гармонік. Вясельнікі старэйшага і сярэдняга ўзросту ў танцах не ўдзельнічалі. Распаўсюджаным быў В. т. маладых пасля іх *звядзення*. Танцавалі яны ў хаце або ў двары (незалежна ад надвор'я). Пасля В. т. з маладой малады павінен быў танцаваць з усімі яе роднымі, толькі пасля гэтага пачыналіся агульныя танцы. Пасля першай шлюбнай ночы маладая выконвала В. т. разам з дружкам (які прыводзіў маладых з клеці), паддружым, а ў некаторых мясцовасцях (Гродзеншчына) — спачатку з бацькам маладога (на растрэсенай яго малодшым сынам саломе, на якой спалі маладыя), а затым і з яго маці (пратанцаваўшы з ёю некалькі хвілін, маладая скідала з сябе спадніцу і аддавала свекрыві). Пазней, пасля першай шлюбнай ночы маладая танцавала з маршалкам. Усім ім яна давала падарункі, часам і сама атрымлівала ад іх плату. У некаторых мясцовасцях маладыя, увайшоўшы ў хату, кланяліся ўсім; музыка іграў маладой «на добры дзень», а яна прасіла кожнага з прысутных выканаць з ёю В. т. У інш. мясцовасцях пасля абраду *каморы* ўсе, закусіўшы, выходзілі на двор, дзе В. т. пачыналі бацькі маладога, за імі тройчы кружыліся маладыя, потым малады танцаваў з мужчынамі, а маладая — з жанчынамі. Толькі пасля гэтага пачыналіся агульныя танцы. Першапачаткова В. т. сімвалізаваў авалоданне маладой, з цягам часу гэта значэнне знікла, і В. т. пачаў тлумачыцца, як своеасаблівае агляданне маладой («ці не крывыя ў маладой ногі») або як навучанне яе танцам. У больш позні час, калі маладыя пад канец вяселля заходзілі ў хату маладога, дзе адбываліся танцы, сват, спыніўшы музыкантаў, прасіў іх сыграць вальс для маладых. Бывала і так, што перад В. т. маладога з маладой малады выконваў некалькі В. т. з дзяўчатамі, маладая — з хлопцамі як апошні іх танец разам з моладдзю. Агульны рытуальны В. т. выконвалі суправаджальнікі маладых па дарозе ў клець і ў час знаходжання там маладых: пляскалі ў далоні, спявалі жартаўліва-фрывольныя (падскочныя) песні, скакалі, імітуючы ў танцы тое, што адбывалася ў каморы. Пасля таго, як з маладой здымалі вянок (дружкі па чарзе прымяралі яго і скакалі, паказваючы сваё жаданне хутчэй выйсці замуж) і завівалі галаву наміткай, усе прысутныя, у першую чаргу прыданкі і завівальніцы, узяўшыся рукамі за доўгі ручнік, скакалі па лаўках (гл. таксама *«Скакуха»*). Гэты В. т. часам узначальвалі малады з маладой. Пасля цешчынага пачастунку, калі малады прывозіў ёй салодкія пірагі і гарэлку (гл. *Салодкая гарэлка*), ён павінен быў выканаць з ёю пад музыку дудара танец, які называлі «пляс» або «казак» (Гарадоцкі павет). Часта на вяселлі выконвалі вясельныя карагоды. Напр., у Гарадоцкім пав. ў суборную суботу пасля віцця вянка маладая ўтварала са сваіх сяброўак карагод і вяла яго на ручніку ў хату, дзе іграў дудар. Карагод таксама вадзілі пасля шлюбнага застолля ў доме маладой, на двары пасля абраду каморы (яго ўзначальваў галоўны сват). Карагод на двары вадзілі і каравайніцы, пасадзіўшы каравай у печ, а таксама на працягу ўсіх інш. дзеянняў, якімі суправаджалася выпяканне каравая. У гэты час усе скокі суправаджаліся даволі выразнымі рухамі цела, якія насілі сімвалічны характар. У канцы вяселля карагодам ішлі ў карчму, каб працягваць вяселле. Пазней многія рытуальныя В. т. значна спрасціліся і выступалі ў выглядзе трохразавага кружэння

*Л. А. Малаш.*

**ВЯСЕ́ЛЬНЫЯ ЧЫНЫ́,** удзельнікі *вяселля*, якія згодна з традыцыяй выконвалі рытуальныя дзеянні, адпаведныя пэўнаму абраду. Падзяляліся на групы ў залежнасці ад іх ролі ў вяселлі, ступені ўдзелу ў ім і з чыйго боку (маладога ці маладой) яны выступалі. Найбольш паважанымі В. ч. былі самыя блізкія і жанатыя сваякі (*дружко*, які кіраваў усім вяселлем), нежанатыя браты і незамужнія сёстры маладых (пазней таксама блізкія сябры і сяброўкі — *дружок, дружка* і інш., якія былі галоўнымі дзеючымі асобамі некаторых абрадаў); больш далёкія сваякі або малалетнія дзеці, якія толькі прыслугоўвалі [*свяцілка*, прасаты, *павознік*, гусарніца (гл. *Каравайніцы), запарожцы* і інш.]. У якасці В. ч. з боку маладога выступалі пераважна мужчыны, а з боку маладой — дзяўчаты і жанчыны. Яны ўключаліся ў вясельнае дзеянне толькі пасля адпаведнага запрашэння або дазволу галоўнага чыну вяселля — дружка. На працягу вяселля функцыя, адпаведная назва і атрыбутыка некаторых В. ч. маглі мяняцца ў залежнасці ад абраду і рытуалу. Так, брат маладой або маладога ў час запрашэння гасцей быў прасатым, а калі вёў маладога або маладую на ручніку на пасад,— заводчыкам, у час застрыгання (засмальвання) валасоў ён называўся *надкоснікам.* Хросная маці або родная цётка з боку маці ў час прыгатавання каравая называлася каравай-

ніцай, а калі везла і слала пасцель маладым — пасцельніцай, калі завівала маладую — завівальніцай. Прычым на кожным этапе вяселля вылучаліся чыны, якія адыгрывалі вядучую ролю,— на этапе выпякання каравая найбольшую актыўнасць праяўлялі каравайніцы, у час суборнай суботы ў доме маладой — дружкі-бальшанкі, а ў доме маладога — дружкі. Былі В. ч., якія аднолькава называліся з абодвух бакоў (маладога і маладой) — дружко, сват, каравайніца і інш., а таксама чыны, якія дзейнічалі толькі з боку маладой (надкоснік, завівальніца, прыданкі) або маладога (перапіўнік). Сістэма В. ч. вызначалася вялікай разнастайнасцю і варыянтнасцю ў розных мясцовасцях Беларусі, што тлумачылася ў значнай ступені часам іх паходжання (частка з іх узнікла ў дахрысціянскі перыяд, частка — у феадальную эпоху і ў больш позні час). *Л. А. Малаш.*

**ВЯСЛО́**, 1) лопасць з доўгім дзяржаннем, прызначаная для веславання (працоўвання лодкі па вадзе). 2) Нізка аднародных прадметаў.



**Вятрак.** Вёска Бялюнішкі Браслаўскага раёна.



**Вятрак.** Вёска Моталь Іванаўскага раёна.

**ВЯТРА́К**, млын ветраны, збудаванне для размолу зерня з дапамогай сілы ветру. На Беларусі В. пачалі будаваць пазней, чым вадзяныя млыны, аднак у 18—19 ст. яны былі паўсюдна. У 1840 у Мінскай губ. дзейнічала 795 вадзяных млыноў і 315 В.; у 1860-я г. ў Гродзенскай губ. вадзяных млыноў было 592, конных — 157, В. — 374. У залежнасці ад спосабу павароту В. да напрамку ветру яны падзяляліся на стрыжнёвыя (слупавыя) і шатровыя.

Стрыжнёвы млын звычайна паварочваўся да ветру ўсім корпусам, меў фундамент з бярвення ці каменя, на якім мацавалі крыжавіну з тоўстых бярвёнаў. Апошняя паварочвалася на вертыкальным слупе з дапамогай дышля. Таўшчыня слупа 80—90 см. Рама з брусоў служыла асновай млына. Такая ж рама крыху меншага памеру была і ўверсе. Да іх прыбівалі абшыўку з дошак (часам з дранкі, гонты, шчапы). Прынцып будовы вертыкальнага кола на гарызантальнай восі ўверсе і яго злучэнне з цаўкамі гарызантальнай шасцярні даволі складаны. Вертыкальная вось гарызантальнай шасцярні злучалася ўнізе непасрэдна з верхнім каменем пастава і прыводзіла яго ў рух. Такія млыны звычайна мелі адзін пастаў. На канцы гарызантальнай восі мацавалася 4—6 крылаў. У зах. і зрэдку ў паўн.-ўсх. паветах Беларусі сустракаліся невялікія (сядзібныя) стрыжнёвыя млыны (казлоўкі) на 1 пастаў вышынёй да 4—5 м. Такі млын абслугоўваў жыхароў аднаго хутара ці нават двара.

Шатровыя млыны больш складаныя і дасканалыя. Па форме яны васьмівугольныя або круглыя. У іх да ветру паварочвалася толькі верхняя частка — шацёр, ці вежа (шапка), дзе размяшчалася гарызантальная вось. Страха двухсхільная ці круглая. Шацёр паварочваўся на крыжавіне з дапамогай доўгага дышля — бервяна, якое спускалася ад крыжавіны на зямлю. Нярэдка дышаль складаўся з трох тоўстых жэрдак, сярэдняя служыла стрыжнем, дзве астатнія ахаплівалі корпус шатра з двух бакоў. Унізе жэрдкі мацаваліся разам. Дышаль прывязвалі да аднаго з 6 укапаных у зямлю слупкоў. На канцы гарызантальнай восі мацавалася 4—6, радзей 8 крылаў — доўгіх брусоў, абшытых тоненькімі дошкамі ці дранкай — застаўкамі. У залежнасці ад сілы ветру колькасць заставак на крыле змяншалася ці павялічвалася. На Віцебшчыне крылы часам абшывалі парусінай. Унутры шатра на гэту ж вось пасаджвалася вялікае вертыкальнае кола (у сярэднім да 4 м у дыяметры). Яно мела да 100 кулакоў (кліноў) з цвёрдага дрэва (дубу, грабу і інш.). Апошнія злучаліся з цаўкамі меншага ў 6—8 разоў гарызантальнага кола, насаджанага на вертыкальную вось. Вось праходзіла праз памост 3-га паверха (яруса). На ўзроўні 2-га паверха на гэту вось мацавалі ніжняе гарызантальнае кола з 30—40 кулакамі. Яны злучаліся з двух бакоў з цаўкамі гарызантальных шасцерняў, восі якіх мацаваліся непасрэдна да верхніх камянёў. Над кожным з паставоў мацавалі кош для засыпкі зерня. Мяшкі з зернем падымалі з дапамогай блока. Дыяметр літых камянёў 1,5—1,8 м, таўшчыня кожнага каменя каля 40—45 см. На кожным паверсе былі па 2 маленькія акенцы. Дыяметр асновы шатровага млына каля 7—8 м. Кверху млын звужаўся. З бярвёнаў будавалі толькі 1-ы паверх. Там размяшчаліся 2 вялікія скрыні для мукі. Шатровыя млыны ў перамежку са стрыжнёвымі будаваліся на ўсёй Беларусі, але найбольш іх было ў паўд.-ўсх. раёнах. Стрыжнёвыя В. сустракаліся часцей на Брэстчыне і Гродзеншчыне. В. дзейнічалі да сярэдзіны 20 ст. *Л. І. Мінько.*

**ВЯЧО́РКІ**, даўні звычай вясковых дзяўчат збірацца асеннімі і зімовымі вечарамі з работай у адной хаце. На В. звычайна пралі (таму часам іх называлі попрадкі, супрадкі), вышывалі. Прыходзілі і хлопцы, якія плялі лапці, выразвалі лыжкі, рамантавалі калаўроты для дзяўчат. На В. жартавалі, расказвалі цікавыя здарэнні, казкі, паданні, былічкі, загадвалі загадкі. У перадсвяточныя вечары дзяўчаты прыносілі невялікі пачастунак, пасля якога моладзь спявала песні, танцавала пад гармонік ці скрыпку. В. былі адметнай з'явай грамадскага побыту сялянскай моладзі шлюбнага ўзросту і служылі сродкам працоўнага і эстэтычнага выхавання. У наш час звычай збірацца на В. знік. *Л. І. Мінько.*



**ВЯЧЭ́РНІКІ**, вясельныя чыны з боку маладой, якія везлі пасцель і пачастунак пасля ад'езду маладых з дому маладой. На дарогу ім бацькі давалі В. гарэлку і абавязкова засмажанага пеўня, якімі В. частаваліся ў дарозе, спыняючыся сем разоў. Пры ўездзе ў двор маладога В. прад'яўлялі так званы «пашпарт» — кварту гарэлкі (выкуп, без якога іх бы не прапусцілі). Іх сустракаў малады, садзіў за стол і частаваў. Пасля гэтага В. слалі шлюбную пасцель (тады іх называлі пасцельніцамі). Пасля першай шлюбнай ночы В. паказвалі ўсім шлюбную кашулю маладой, завівалі маладую (тады яны называліся завівальніцамі; гл. *Завіванне*). У некаторых мясцовасцях Беларусі два апошнія дзеянні выконвалі не В., а *прыданыя*, якія прыязджалі пазней, пасля В., або назаўтра (В. стараліся не пусціць прыданых у двор да маладога, патрабуючы выкуп). Затым В. лавілі курэй, гатавалі з іх ежу і частавалі прыданых. *Л. А. Малаш.*



народнасці (14—16 ст.) замацоўваліся і этнічныя асаблівасці адзення.

Г. ў. пануючых класаў выраблялі з дарагіх мануфактурных тканін (аксаміт, парча, шоўк, дыхтоўнае сукно), футра собаля, куніцы, бабра, ліса, вавёркі, багата аздаблялі каштоўнымі камянямі, жэмчугам, пер'ем, вышыўкай і карункамі з залатых і сярэбраных нітак. Мужчынскімі Г. ў. магнатаў і гарадской знаці ў 16—19 ст. былі кучмы, ялмонкі, канфедэраткі, *брылі*, з якасных матэрыялаў *магеркі*, у шляхты — шапкі-каўпакі (святочныя ўпрыгожвалі бліскучымі камянямі і плюмажам з чаплінага пер'я), у духавенства — найперш скуф'я. Жаночыя Г. ў. вызначаліся разнастайнасцю тыпаў, шыкоўным аздабленнем, залежнасцю форм ад змены стыляў у зах.-еўрапейскім касцюме, імкненнем падкрэсліць вытанчанасць твараў арыстакратак. Былі пашыраны *намітка* (убрус, хуста), *хустка* (рабак, шырынка), раптух, каптуровыя ўборы (*каптур, чапец*, шапка, каўпак, берэт), а таксама *вянок, чылка* і інш. Г. ў. гарадскіх рамеснікаў, мяшчан адрозніваліся большай практычнай мэтазгоднасцю, таннейшымі матэрыяламі і аздобай, стрыманай афарбоўкай. Бел. народныя Г. ў. выраблялі ў хатніх умовах або спецыяльныя рамеснікі (шапавалы). Мужчыны насілі розныя віды шапак: суконную або лямцавую белую ці шэрую магерку, аўчынную або футравую цыліндрычную ці конусападобную *кучомку*, зімой — аўчынную або футравую *аблавуху*. Вядома і шапка-футраванка (накшталт канфедэраткі) з чатырохвугольным цёмным верхам і мяккім аколышам. Святочныя шапкі ўпрыгожвалі дэкаратыўнай строчкай, нашыўкамі каляровага шнура, скуры, тканіны, кутасамі. Шырока бытавалі валеныя ці плеценыя брылі, якія насілі найчасцей улетку. З канца 19 ст. набыў пашырэнне *картуз*, заменены ў 20 ст. кепкай. Жаночыя Г. ў. 19— пач. 20 ст., асабліва святочныя і абрадавыя, вылучаліся багаццем форм, спосабам нашэння, майстэрствам і вытанчанасцю мастацкага выканання. Дзяўчаты зачэсвалі валасы на прамы прабор (радзей гладка), запляталі ў 1—2 касы з каснікамі (розных колераў стужкі, паскі тканіны, нізкі бісеру). Дзявочыя ўборы ахоплівалі галаву ў выглядзе абручыка ці перавязкі-ручніка і падзяляліся на такія віды, як вянок, *скіндачка, чылка, кубак*, хустка; часам яны ўваходзілі як састаўная частка ва ўборы замужніх жанчын. Асаблівая маляўнічасць, тонкі густ афармлення ўласцівы вясельным, купальскім уборам, у аздабленні якіх выкарыстоўвалі кветкі, галінкі дрэў, зеляніну, стужкі, пер'е, паперу. Яркім суквеццем, насычаным каларытам, мажорным ладам яны адпавядалі святочнаму настрою, падкрэслівалі хараство маладосці. Замужнім жанчынам не дазвалялася паказвацца на людзях з непакрытай галавой, і іх Г. ў. былі больш разнастайныя і складаныя паводле будовы і спосабу нашэння, больш сціплыя паводле дэкору. У ансамблі ўсяго касцюма яны надавалі жаночай постаці велічнасць і статнасць, як бы скульптурную яснасць і закончанасць. Комплекс убору складаўся звычайна з цвёрдай асновы (тканка, лямец), спецыяльнага чапца і павязанага кавалка палатна. Жаночыя Г. ў. падзяляюцца на ручніковыя (намітка, сярпанка, хустка), рагацістыя (*галовачка*, рожкі, сарочка), каптуровыя (каптур, чапец, наколка), падвічкавыя (*падвічка*). На белае поле



**Галаўныя ўборы.**
Шлюбны вянок маладой.



Мужчына ў шапцы-футраванцы.



Маладуха ў каптуры. Маладзечанскі раён.

**ГАЗО́ЎКА**, самаробная газавая лямпа без шкла.

**ГАЛАМБЕ́ЎСКІ** (Gołębiowski) Лукаш (13.10.1773, в. Пагост Пінскага р-на — 7.1.1849), польскі гісторык, этнограф, архівіст. У працах «Люд польскі, яго звычаі, забабоны» (1830), «Гульні і забавы розных саслоўяў ва ўсім краі або ў некаторых толькі правінцыях» (1831), «Гісторыя Польшчы» (1846—48) апісаў жыццё, побыт, абрады, адзенне, нар. святы і фальклор розных этнічных груп (палякаў, беларусаў, украінцаў, рускіх) Рэчы Паспалітай у межах 1772. Прытрымліваўся кансерватыўных поглядаў. *В. К. Бандарчык.*

**ГАЛАЎНЫ́Я ЎБО́РЫ**, састаўная частка *адзення*. У мінулым адлюстроўвалі маёмасную няроўнасць, сацыяльнае становішча чалавека, а жаночыя — і сямейнае. Асноўныя формы Г. у. вядомы з часоў Кіеўскай Русі: у мужчын — шапка (з сукна ці лямцу), у дзяўчат — вянок, у жанчын — чапец, а паверх убрус. З фарміраваннем бел.

палатна наносіўся чырвоны ці чырвоначорны арнамент. З прыёмаў мастацкага афармлення пераважалі вышыўка, узорыстае ткацтва, аплікацыя парчовай тасьмой, крамнымі тканінамі. Ва ўборах пажылых кабет асноўны акцэнт рабіўся на пластыку формы, спосаб завязвання. Багата выглядалі ўборы свацціяў, блізкія паводле характару аздаблення да святочных дзявочых. Жаночыя Г. ў. не мелі рэзкага падзелу на летнія і зімовыя, у холад на іх дадаткова накідвалі хустку. З канца 19 ст. ў



Жанчына-мяшчанка ў старадаўнім **галаўным уборы** (галовачка). Горад Давыд-Гарадок Столінскага раёна.

вёску сталі ўсё шырэй пранікаць фабрычныя вырабы, яны паступова выцеснілі традыцыйныя народныя, якія ў наш час выкарыстоўваюцца ў сцэнічным касцюме. Асартымент сучасных Г. у. вельмі разнастайны паводле полава-ўзроставага і сезоннага прызначэння, выкарыстаных матэрыялаў, тэхналогіі выканання, а таксама мастацкага вырашэння паводле форм і аздаблення.

*М. Ф. Раманюк.*

**ГАЛЕРЭ́Я** (франц. galerie ад італьян. galleria), доўгае крытае светлае памяшканне, у якім звычайна адна вонкавая падоўжная сцяна заменена калонамі або слупамі. Як элемент маст. аздаблення фасада была асабліва пашырана ў Італіі, адкуль у 16 ст. трапіла на Беларусь і стала прыкметнай асаблівасцю драўляных і мураваных сядзібных дамоў, палацаў, крам і гандлёвых радоў, ратуш, корчмаў, гаспадарчых пабудоў і інш. Гэта былі прыбудовы слупавой канструкцыі да падоўжных фасадаў будынкаў і збудаванняў. Вядомы Г. 1-, 2-, 3-, 4-ярусныя. Шмат'ярусныя Г. злучалі паверхі будынка лесвіцамі. У 17—18 ст. верхнія падкосы слупоў рабілі ў выглядзе паўарак, што стварала аркадную кампазіцыю фасадаў (лямус брыгіцкага кляштара ў Гродне). Іспавалі і кругавыя Г. (т. зв. кружганкі), якія афармлялі ўсе фасады будынка (каралеўскі палац на Гарадніцы ў Гродне, сырніца ў в. Баркі Слонімскага р-на, лямус у г. п. Са-



Дзяўчына ў хустцы. Рагачоўскі раён.

поцкін Гродзенскага р-на, званіца ў Клецку, Ільінская царква ў Віцебску і інш.). У 19 ст. Г., аздобленыя ажурнай разьбой, сталі характэрнымі і для гарадскога жылля (Мазыр, Гомель).

*Ю. А. Якімовіч.*

**«ГАЛЁПКА»**, гарадскі бытавы танец. Лакальныя назвы «Полька-галёпка», «Галёп-мяцеліца». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Неаднаразова зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у выглядзе асобнай фігуры кадрылі. Асноўны рысунак — круг. Пастава рук можа быць рознай. Неад'емныя элементы — розныя варыянты полек, а таксама бакавыя прыстаўныя крокі з падскокамі. У асобных рэгіёнах паводле характару пераходаў і перабудовы нагадвае кадрыль. Часам колькасць кален у «Г.» дасягае пяці. Вядома па ўсёй Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*

**ГАЛЁПЫ**, рытуальнае мучное печыва з нагоды прылёту буслоў. Дзень сустрэчы птушак прыпадаў на *благавешчанне* (25 сак. с. ст.). Выпякалі Г. з пшанічнай мукі ў выглядзе булачак або коржыкаў рознай формы (у залежнасці ад мясцовых звычаяў); маглі імітаваць фігуру бусла — з дзюбай, крыламі, лапамі, хвастом; яго выява магла быць выціснута на печыве зверху. Выпякаліся Г. ў выглядзе буславай лапы або з яе адбіткам (выціскаўся трыма пальцамі); Г. маглі мець форму сахі,





Жанчына ў намітцы. Маларыцкі раён.

Хлопец у саламяным брылі. Лепельскі раён.

бараны, сярпа і інш. Пяклі Г. напярэдадні або ў дзень благавешчання (калі забаранялася пячы хлеб) ці на

наступны дзень. Агульнае прызначэнне печыва — сустрэча, клікание буслоў. Г. раздавалі дзецям, якія выходзілі з імі на падворак, бегалі, стараючыся наказаць печыва першаму ўбачанаму буслу і пачаставаць яго. Пры гэтым прыгаворвалі: «Бусел, бусел, на табе галёпу, // Дай мне жыта копу!» або «Буську, буську, на тобі борону, // Дай мне жыта сторону! Буську, буську, на тобі сырпа, // Дай мне жыта снопа!». Часам печыва проста пакідалі на двары, каб ім пачаставаўся бусел. Астатнія Г. дзеці елі самі. Г. вядомы таксама на Зах. Палессі (Кобрынскі, Маларыцкі, Драгічынскі, Іванаўскі раёны). На Гродзеншчыне, Піншчыне на благавешчанне пяклі коржыкі («падпалкі») у форме буславай лапы («буськавы лапы», «бусловы лапы»), на Навагрудчыне — круглыя невялікія пампушкі. *Г. Ф. Вештарт.*

**ГАЛІНОВАЯ НАВУКО́ВА-ДАСЛЕ́ДЧАЯ ЛАБАРАТО́РЫЯ БЕЛАРУ́СКАЙ ТАНЦАВА́ЛЬНАЙ ТВО́РЧАСЦІ.** Створана пры Мінскім інстытуце культуры 1.1.1981. Асноўныя мэты: збіранне бел. танцавальнай творчасці, стварэнне своеасаблівага фальклорнага «банка», навуковая сістэматызацыя і аналіз матэрыялу, выкарыстанне выпікаў даследавання пры падрыхтоўцы харэографаў і ў дзейнасці прафесійных і самадзейных калектываў рэспублікі. Лабараторыя распрацоўвае тэму «Танцавальная культура Беларусі», аснову якой складае калекцыя рэгіянальнага фальклорнага матэрыялу з усіх абласцей рэспублікі. Штогод праводзяць 3—4 фальклорныя экспедыцыі, у якіх удзельнічаюць супрацоўнікі лабараторыі і студэнты-харэографы. Мае алфавітны, жанравы і тапаграфічны каталогі; фанатэку, нотатэку (расшыфроўкі музычнага матэрыялу), фотатэку, слайдатэку, якія налічваюць 15 тыс. адзінак захавання (1987). На матэрыяле экспедыцый праводзяцца студэнцкія фальклорныя вечары. Навуковы кіраўнік Ю. М. Чурко (з 1981). Пры кафедры харэаграфіі створаны танцавальны ансамбль «Унукі», у рэпертуары якога пераважаюць творы студэнтаў. Ансамбль удзельнічаў у канцэртнай праграме Міжнароднага сімпозіума па пытаннях харэаграфічнага фальклору, праведзенага пад эгідай ЮНЕСКА ў 1986 у Ноўгарадзе, выязджаў у ГДР, выступаў на фальклорным фестывалі ў Літве. *А. Л. Варламаў.*

**ГАЛЛЁ,** скураны абутковы паўфабрыкат, што атрымліваецца пасля залепня і мяздрэння скуры; гл. ў арт. *Гарбарства.*

**ГАЛО́ВАЧКА,** даўні галаўны ўбор замужніх жанчын у *давыд-гарадоцка-тураўскім строі.* Лакальная назва галава. Бытавала ў 18— пач. 20 ст. Складалася з уласна Г. (цвёрды каркасаснова ў выглядзе шапкі без верху, надлобная частка якой пераходзіла ў трапецападобны грэбень вышынёй 8—15, шырынёй 10—17 см), своеасаблівага чапца (чахольчык з паркалю ці кужэльнага палатна, надзяваўся на грэбень), рабушкі (пасак з тых жа матэрыялаў, якім ахінаўся каркас), сярпанкі (намітка з тонкага, як марля, палатна даўжынёй 3,5—5 м, шырынёй 50—60 см); складзеная ў некалькі столак, яна абвівала грэбень, праходзіла пад падбародкам і свабоднымі канцамі драпіравалася на спіне. Часта Г. дапаўнялася ўзорыстай кашміровай хусткай з махрамі — тараноўкай (складзеная па дыяганалі, прапускалася пад падбародкам і завязвалася на цемі). Святочную Г. аздаблялі вышыўкай тонкім чырвоным, жоўтым, чорным шоўкам або малінавымі, блакітнымі, чорнымі ніткамі лучковай воўны, нашыўкамі залацістай тасьмы, набіванага пярэстага паркалю. Геаметрычны або моцна геаметрызаваны раслінны арнамент (ромб, елка, пальмета) размяшчаўся на чапцы і рабушцы, дзе яны не пакрываліся сярпанкай. Накрухмаленае палатно сярпанкі не аздаблялі, апрача вузкіх (каля 0,5 см) чырвоных пасак па берагах круга і на канцах. На жалобных уборах рабілі цёмна-сінія ці чорныя паскі. Асаблівым майстэрствам вышывак вызначаліся Г. тураўлянак 19 ст. Двухбаковае шво (размалёўка, падліковая гладзь, козлік) ствaрала тонкі графічны ўзор са стылізаваных, накрыж закампанаваных 4 галінак з кветкамі і лісцем. Блізкі да Г. галаўны ўбор жанчын Давыд-Гарадка і Століна — падушачка (пухоўка). *М. Ф. Раманюк.*



Традыцыйны галаўны ўбор мяшчанкі — **галовачка.** Канец 19 ст. Горад Давыд-Гарадок Столінскага раёна.



Вясельная **галовачка** (фрагмент). Канец 19 ст. Вёска Альшаны Столінскага раёна.

**«ГАЛУБЕ́Ц»,** традыцыйны танец; роднасны рускім і ўкраінскім узорам. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп жвавы. Характэрны рух — падбіўка адной нагой другой нагі з ударам абцаса аб абцас («галубец»). У старадаўнім варыянце «Г.» хлопец і дзяўчына імправізавалі ўзаемаадносіны галубоў: партнёрша плыла павай, а танцор увіваўся вакол яе. «Г.» танцавалі валачобнікі. *Ю. М. Чурко.*

**ГАЛУБЯ́ТНЯ,** збудаванне для ўтрымання галубоў. Вядома з 16 ст. ў магнацкіх і шляхецкіх сядзібах. Пашырэнне Г. звязана з паштовымі патрэбамі. Гэта былі звычайна невялікія драўляныя збудаванні з адтулінамі ў сценах (ляткамі) для залёту галубоў, накрытыя двухсхільнымі, вальмавымі або шатровымі стрэшкамі. Ставілі іх на слупах, на ўязных варотах (г. п. Сапоцкін Гродзенскага, в. Івань Слуцкага р-наў і інш.), часам у верхніх частках гаспадарчых пабудоў: свірнаў, птушнікаў і інш. *Ю. Я. Якімовіч.*

**ГАЛУ́ШКІ,** 1) традыцыйная мучная страва. Лакальная назва палюхі. Рабілі з грэцкай, жытняй, пшанічнай, ячнай мукі. Цеста крута замешвалі, качалі Г. розпай велічыні (маленькія і большыя — з курынае яйцо), часам цеста качалі ў адну качулку і рэзалі на кавалкі нажом. Г. кідалі ў вар, варылі, адкідалі на рэшата або друшляк, потым засквapвалі салам, залівалі смятанай, малаком, часам падсмажвалі ў сале. Г. гатавалі і з юшкаю як рэдкую

страву (тады іх рабілі меншымі). Часам Г. спачатку падпякалі, а потым варылі. Г. вядомы на ўсёй Беларусі. На Палессі Г. варылі на памінкі і елі з сытою, цёртым макам. 2) Пшанічная булачка. На саракі пяклі 40 Г. Сустракаецца спарадычна на ўсім Палессі.
*Г. Ф. Вештарт.*

**ГАЛЯ́РА,** драўлянае пласкадоннае хадавое судна без палубы, з двухсхільнай страхой або без яе, з разгорнутымі ці амаль прамымі бартамі, з тупым носам і кармой. Лакальная назва гіляра. У плане мела выгляд трапецыі. Даўжыня 20—30 м, шырыня 2—5 м, грузападымальнасць 15—75 т. Г. будавалі ў 19 ст. на Дняпры, Бярэзіне, Бугу, Нёмане, Дзясне, Віслe. Служылі 8—12 навігацый. *Н. І. Буракоўская.*

**ГА́НАК,** крытая прыбудова з прыступкамі, апорнымі слупкамі перад уваходнымі дзвярамі. Да сярэдзіны 19 ст. ў вясковым будаўніцтве на Беларусі Г. як элемент хаты не тыповы. Звычайна над уваходам рабілі казырок, клалі каля парога вял. камень, стары жорнавы, масіўную калоду. У канцы 19 ст. сустракаўся Г. у выглядзе невялікай дашчанай пляцоўкі з прыступкамі і 1- ці 2-схільнай стрэшкай на 2 або 4 слупах (адкрыты). Радзей сустракаўся Г. з поручнямі і лаўкамі. У канцы 19— пач. 20 ст. пашырыліся глухія і кратаваныя напаўзакрытыя Г., у якіх прастору паміж падлогай пляцоўкі і поручнямі зашывалі абчэсанымі жэрдкамі, дошкамі ці аполкамі. У наш час Г. робяць амаль пры кожнай хаце, прыбудоўваюць і да веранд. Апорныя слупкі і франтоны часта аздабляюць разьбой. Будуюць Г. на цагляным (радзей каменным) падмурку з прыступкамі. Часам да закрытага Г. прырабляюць дзверы; тады ў яго

бакавых сценках абавязкова прараразаюць акенцы. *У. С. Гуркоў.*

**ГА́НЦАВІЦКІЯ ПАЯСЫ́,** традыцыйныя тканыя паясы, якія выраблюць у в. Люсіна, Макава, Дзяніскавічы, Хатынічы Ганцавіцкага р-на (захаваліся з канца 19 ст.). Ткалі на ніту (гл. *Ткацтва паясоў*) з лёну, воўны, бавоўны даўжынёй 150—350, шырынёй 1,5—7 см. Сучасныя паясы даўжынёй 150, шырынёй 1,5—2 см ткуць таксама з сінтэтычных нітак. Кампазіцыйна падзяляюцца на падоўжна-паласатыя паясы з шырокай (звычайна чырвонай) паласой, якая разбіваецца вузкімі паскамі ці дробным шашачным узорам інш. колеру, і перабіраныя (узорыстыя) паясы, якія ткуць у геаметрычныя ўзоры («ступа», «елачка», «грабелькі», «вочка» і інш.). На адным поясе звычайна паўтараюцца 1—4 элементы ўзору, вытканага ніткамі аднаго колеру (пераважна чырвонага, бардовага, ружовага) на белым (зрэдку зялёным) фоне. Шматколернасць Г. п. надаюць вузкія ў 3—4 колеры беражкі («вокладкі», «абложкі»). Сучасныя ткачыхі аддаюць перавагу перабіранай тэхніцы і ткуць узоры ў традыцыйнай каляровай гаме з захаваннем выразнай графічнасці малюнка, характэрнай і для інш. тканін гэтага рэгіёна.
*В. І. Селівончык.*

**ГАНЧА́К,** тып *баржы;* пласкадоннае судна без палубы і аснасткі. Даўжыня да 63,9 м, шырыня да 14,9 м, грузападымальнасць да 13 т. Выкарыстоўвалі для перавозкі вугалю, лясных і будаўнічых (мел, каменне) матэрыялаў з дапамогай буксірных параходаў. Г. будавалі на Дняпры, Сожы ў канцы 19 — пач. 20 ст. Служылі 8—10 навігацый.
*Н. І. Буракоўская.*

**ГАНЧА́РНАЯ СІСТЭ́МА МЕР,** традыцыйная сістэма адзінак абазначэння глінянага посуду ў залежнасці ад яго ёмістасці. Узнікла ў сувязі з аптовым продажам вялікіх партый і абменам на збожжа глінянага посуду розных памераў. Вядомы 3 мясцовыя Г. с. м. — палеская, паўночнабеларуская, заходнебеларуская, пашыраныя ў 19— пач. 20 ст. ў бел. гарадах і мястэчках. П а л е с к а я сістэма мер склалася ў былым мяст. Гародна (в. Гарадная Столінскага р-на): мамзэлік (толькі гаршчок) — каля 0,5 л, мамзэль (гаршчок) і мамзэлевыя (міскі, збанкі, гарлачы, талеркі) — 1 л, паўзлівач, або семак (гаршчок), і семаковыя (міскі, збанкі, гарлачы, слоікі, вазоны) — 1,5—2 л, злівач (гаршчок) і злівачовыя (міскі, збанкі, гарлачы, слаі, макатры, глякі, вазоны) — 3 л, нярознак (гаршчок) і нярознакавыя (міскі, збанкі, гарлачы,





Галерэя лямуса. Горад Гродна.



**Ганак.** Гарадскі пасёлак Копысь.



Хата з **ганкам.** Вёска Наўліпа Полацкага раёна.

слаі, макатры, глякі, вазоны) — 4—6 л, пададзіпец (гаршчок) і пададзінцовыя (міскі, збанкі, макатры, глякі) — 6—8 л, адзінец (гаршчок) і адзінцовыя (міскі, макатры) — 8—16 л, паляк (гаршчок) — звыш 16 л. Посуд лічылі на дзесяткі і фуры (ад назвы вялікіх калёс, на якіх развозілі ганчарны посуд).


1

Фура раўнялася 100 умоўным дзесяткам. Паўночнабеларуская сістэма мер з некаторымі мясцовымі варыянтамі ўжывалася ў Глыбокім, Дзісне, Бешанковічах і інш. ганчарных цэнтрах: пецяронка (кубарка) — 0,5—0,8 л, чацвяронка — 1—1,5 л, траёнка — 2—3 л, палавінніца — 4—5 л, штука — 8—10 л. Адпаведна гэтаму даялеяню на штуку прыпадала некалькі (2—5) вырабаў меншай велічыні. Адрозніваліся простая і складаная сотні. Простая сотня складалася з 100 штук аднолькавага памеру з агульным аб'ёмам 800—1000 л, складаная — з посуду розных памераў, але такім самым сумарным аб'ёмам. Заходнебеларуская сістэма мер ужывалася ў Ракаве, Івянцы і інш. ганчарных цэнтрах. Ганчары посуд дзялілі на цацкавы — каля 0,5 л, смятанкавы — 1 л, рублёвы — 2 л, кварталы — 3 л, паўгарцавы — 4—5 л, гарцавы — 10 л, двухгарцавы — 20 л, васьмікварталы (пакавы) — 24 л. Лічылі *копамі.* *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГАНЧА́РНЫ ГО́РАН**, спецыяльная печ для абпальвання *ганчарных вырабаў*. Прымяненне яго характэрна для высокаразвітога *ганчарства*. Ва Усх. Еўропе Г. г. пашырыўся з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. (антычныя гарады Паўн. Прычарнамор'я). На ўсходнеслав. землях вядомы з 12—13 ст. (па археалагічных знаходках). Археолагі выявілі ў Мінску Г. г. 16 ст.

Г. г. муравалі з абпаленай ці сырцовай цэглы, камянёў, гліны пад адкрытым небам (напольныя), часам у *ганчарні.* Палявыя Г. г. размяшчалі воддаль ад жылых і гасп. будынкаў і заглыблялі ў зямлю (на паверхні знаходзіўся толькі праём для загрузкі посуду), збудаванні з адкрытым верхам часта заглыблялі крыху вышэй перакрыцця паліўнай камеры. Наземную частку засыпалі па баках грунтам, для павелічэння трываласці агароджвалі зрубам, часам умацоўвалі бярвеннем, клямарамі з жэрдак, металічных прутоў і дроту, абкладвалі каменнем і дзёрнам.


2


3


4

Двух'ярусныя **ганчарныя горны**: 1 — круглы; 2 — чатырохвугольны з адкрытым верхам; 3, 4 — чатырохвугольныя з закрытым верхам.

Ад ветру засланялі дашчанымі застаўнямі накшталт тыну. Для агню рабілі спец. яму (шыя, паленнік, прыгорніца), у якую выходзіла вусце топкі (чалеснікі, пелюсць). Г. г. звычайна былі разлічаны на адначасовую тэрмічную апрацоўку 300—350 (зрэдку 800—1000) вырабаў рознай велічыні.

У залежнасці ад формы вылучаюць круглыя (грушападобныя) і чатырохвугольныя ў плане Г. г. Круглыя, найб. раннія, былі пашыраны пераважна на Падняпроўі і Прыпяцкім Палессі. Паводле канструкцыі круглыя горны — 2-ярусныя, іх заўсёды размяшчалі ў полі. Вядомы з адкрытым і купалападобным (скляпеністым) верхам. У ніжняй камеры топка і вынасныя чалеснікі, верхняя служыла для абпальвання вырабаў. Камеры падзяляліся гарызантальным перакрыццем (чарэнь, под, рашотка) з адтулінамі (люхты, дучкі, слёсы) для праходу знізу гарачых газаў. Ніжняя камера ў цэнтры звычайна мела слуп (дзядок, бабка), што падтрымліваў перакрыцце і ўтвараў кальцавы дымавы канал, або падзялялася на два каналы падоўжнай сценкай, т. зв. казлом. Камеры з кальцавым каналам пераважалі на У, двухканальныя — на Пд.

Чатырохвугольныя горны бытавалі на Пн і З Беларусі (1- і 2-ярусныя). Найбольш простыя 1-ярусныя горны канструкцыйна нагадвалі хатнюю печ. Іх размяшчалі ў памяшканні, муравалі на нізкім апечку, палілі «па-чорнаму». Перад абпальваннем у аднакамерным горне рабілі драўляны намост (вымаст, масток, палаці) для вырабаў, пад які падкладвалі паліва. Больш дасканалыя 2-ярусныя горны пашырыліся, верагодна, з 16 ст. Яны былі з адкрытым верхам (напольныя) і з закрытым (мураваліся ў ганчарні, былі наземнымі і паўпадземнымі). Складаліся з дзвюх камер — ніжняй для паліва (звычайна мела адны, зрэдку двое чалеснікаў) і верхняй для тэрмічнай апрацоўкі вырабаў. Паміж сабою камеры падзяляліся скляпеннем з люхтамі. У горнах з закрытым верхам камеры для абпальвання перакрывалі скляпеннем з некалькімі люхтамі, звязанымі дымавымі каналамі з комінам. У сценах верхняга яруса размяшчалі некалькі горнавых акон для загрузкі і вымання керамікі (пры абпальванні іх замуроўвалі). Для назірання за працэсам абпальвання служылі невялікія адтуліны — акенцы, якія закладвалі цаглінай.

Тэрмічная апрацоўка працягвалася 9—14 гадзін (залежала ад пары года, кліматычных умоў і інш.). Наяўнасць дзвюх камер дазваляла лёгка рэгуляваць і падтрымліваць патрэбную тэмпературу абпальвання. У наш час ганчары-надомнікі выкарыстоўваюць традыцыйныя 2-ярусныя горны, на дзярж. прадпрыемствах — электрычныя ці на мазутным паліве печы. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГАНЧА́РНЫ КРУГ**, прыстасаванне для фармоўкі полых *ганчарных вырабаў*. Яго дзеянне заснавана на цэнтраваным вярчэнні ў адной плоскасці пры дапамозе вертыкальнай восі. Вынаходства і пашырэнне Г. к. амаль усюды звязаны з ператварэннем *ганчарства* ў ра-

мяство і вылучэннем у грамадстве спецыялістаў-ганчароў (на тэр. Беларусі з 10 ст.). У залежнасці ад спосабу прывядзення ў дзеянне Г. к. падзяляюцца на ручныя і нажныя. Найбольш архаічны ручны круг бытаваў у некаторых вясковых цэнтрах ганчарства розных гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі, за выключэннем Палесся. Служыў для загладжвання кавалкам палатна паверхні і часткова для прафілёўкі пасудзін, папярэдне сфармаваных ад рукі выцісканнем (выбіваннем) з камяка гліны або налепам. Меў нерухомую вось і складаўся з 1—2 дыскаў або дыска і крыжавіны, жорстка злучаных спіцамі. Выраблялі яго цалкам з дрэва, мацавалі на зэдліку, плашцы ці калодзе.

Нажны Г. к. быў пашыраны па ўсёй Беларусі. Вылучаюць 2 яго канструкцыі — з нерухомай і рухомай воссю. Г. к. з нерухомай воссю бытаваў ужо ў 15—16 ст. Яго рабілі цалкам з дрэва (генетычна звязаны з ручным кругам на нерухомай восі). Складаўся з 2 дыскаў аднолькавага ці рознага дыяметра з 4, 6 або 8 вертыкальнымі або нахіленымі спіцамі. Вось, на якой вярцеўся круг, убівалі ў зямлю (плашку, крыжавіну). Г. к. з рухомай воссю больш дасканалы. Яго паходжанне звязана з культурай Усходу. З 14 ст. вядомы ў Іспаніі і Італіі, адкуль паступова пашырыўся ў іншыя краіны Еўропы. На Беларусі вядомы з сярэдзіны 18 ст., масава пашыраны ў рамеснай вытворчасці з 2-й пал. 19— пач. 20 ст. У многіх цэнтрах ганчарства Беларусі нажны круг з рухомай воссю называлі нямецкім або варштатам, станком. Складаўся з малога верхняга і вялікага ніжняга дыскаў, жорстка злучаных з воссю, ніжні канец якой устаўлялі ў прыстасаванне на падлозе накшталт падшыпніка (паўпрыца, бабка, чашачка, пяцёўка, мітэрка). Вось мацавалася металічным або драўляным крапштэйнам (лапа, лісіца, клешчы) да лавы, часам палка і круцілася разам з дыскамі. Нажныя Г. к., за выключэннем некаторых разнавіднасцей з нерухомай воссю, быстраходныя; яны стваралі цэнтрабежную сілу, неабходную для фармавання полых вырабаў з камяка гліны шляхам выцягвання. У наш час ганчары карыстаюцца пераважна нажным кругам з рухомай воссю (з шарыкавымі падшыпнікамі для лепшага вярчэння). Дзярж. прадпрыемствы аснашчаны Г. к. з электрамеханічным прыводам. Калекцыі Г. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Бел. дзярж. музеі нар. архітэктуры і побыту, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГАНЧА́РНЫЯ ВЫ́РАБЫ**, посуд і іншыя гаспадарчыя і дэкаратыўныя рэчы з гліны. Форма Г. в. мянялася на працягу тысячагоддзяў пад уплывам культурна-бытавых, эканам. і сацыяльных фактараў. Самыя ранпія — вастрадонныя, пазней круглядонныя пасудзіны — *гаршкі* і *кубкі*. З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі вытворчасць прадуктаў харчавання павялічылася, больш разнастайнай стала ежа і спосабы яе гатавання, што абумовіла змены ў формах Г. в. У бронзавым веку масавае пашырэнне атрымаў пласкадонны посуд, які выраблялі ўжо ў канцы неаліту. У шырокі ўжытак увайшлі прафіляваныя гаршкі для гатавання і захоўвання ежы, *міскі*, кубкі. Гліняныя пасудзіны выкарыстоўвалі і ў пахавальным абрадзе. У жалезным веку Г. в. сталі больш разнастайнымі, павялічыліся варыянты форм вядомых раней пасудзін, паявіліся новыя — патэльні, кубкі з вушкамі, гаршкі з накрыўкамі. У 10—13 ст. асартымент Г. в. шырокі: гаршкі, *латушкі*, *карчагі*, міскі, *гарлачы*, кубкі, галаснікі, *каганцы*, *цацкі* дзіцячыя і інш. Практычна ўсе вядомыя ў той час Г. в. бытавалі і на працягу наступных стагоддзяў. Змены ў большасці пасудзін датычыліся ў асноўным абрысаў. Форма асобных рэчаў — карчаг і *кафлі* — істотна змянілася. У перыяд позняга феадалізму асартымент Г. в. працягваў ускладняцца, сталі больш пашыранымі талеркі, рынкі і інш. У 19— пач. 20 ст. Г. в. былі вельмі разнастайнымі паводле форм і бытавога прызначэння. Рабілі посуд для гатавання (гаршкі, *бабачнікі*, латкі, макатры, пражэльнікі, *рынкі*, *цадзілкі*, адстойнікі і інш.), для захоўвання і транспарціроўкі прадуктаў (*збаны*, гарлачы, *глякі*, *слаі*, *спарышы* і інш.), сталовы посуд (міскі, паўміскі, кубкі, хлебніцы, маслёнкі, чайнікі, імбрычкі і інш.), рэчы рознага гаспадарчага ўжытку (*рукамыі*, паілкі, пасудзіны для гонкі дзёгцю і іншыя), дэкаратыўную кераміку (фігурны посуд і скульптуру малых форм у выглядзе жывёл, *букетнікі*, вазоны і інш.); ляпілі таксама цацкі. Самастойнае значэнне набыла вытворчасць *кафлі* і *дахоўкі*. Вырабы аздаблялі геаметрычным і раслінным арнаментам, які прачэрчвалі ці штампавалі на сырой паверхні посуду, глянцавалі, размалёўвалі белым і чырвоным ангобам, каляровымі фарбамі.

У наш час асартымент Г. в. прыкметна звузіўся. У ім пераважаюць збанкі, гаршкі, вазоны. Шэраг традыцыйных керамічных рэчаў (глякі, міскі, спарышы, збанкі і інш.) выкарыстоўваецца насельніцтвам, асабліва гараджанамі з дэкаратыўнай мэтай. Тэхніка і тэхналогія іх вытворчасці ганчарамі-надомнікамі амаль не змянілася. На дзярж. прадпрыемствах асноўныя працаёмкія вытворчыя працэсы механізаваны (машыны для падрыхтоўкі фармовачнай масы, ганчарныя кругі з электрамеханічным прыводам і інш.). Выпускаецца бытавы (збанкі, вазоны), разнастайны дэкаратыўны і сувенірны посуд, у т. л. фігурны, сталовыя і кафейныя наборы, букетнікі і інш.







Ручныя **ганчарныя кругі** з нерухомай воссю.

Найбольш значныя калекцыі Г. в. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР, Бел. дзярж. музеі нар. архітэктуры і побыту. Гл. таксама *Ганчарства*. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГАНЧА́РНЫЯ ПРЫЛА́ДЫ ПРА́ЦЫ**, прыстасаванні і інструменты, якімі карыстаюцца ў працэсе вытворчасці *ганчарных вырабаў*. Некаторыя з іх дайшлі з глыбокай старажытнасці і амаль без змен захаваліся ў вясковых ганчарных цэнтрах на ПнЗ Беларусі. Найб. дасканалымі і разнастайнымі былі прылады ў гарадскіх і мястэчковых рамеснікаў, у сельскіх майстроў на Падняпроўі і Палессі. У ліку асноўных

прыстасаванняў былі *ганчарны круг* і *ганчарны горан*. Для нарыхтоўкі і апрацоўкі сыравіны і падрыхтоўкі фармовачнай масы выкарыстоўвалі рыдлёўкі, капаніцы, доўбні, стругі, косы. *Жарству* раздрабнялі ў ступах, перапалены свінец, волава, медзь, кавальскую дзындру, вокіс марганцу і глею, з якіх рабілі празрыстую і каляровую *паліву*, расціралі ў жорнах. У чыгуне, катле ці ў інш. металічнай пасудзіне пера-





Нажныя **ганчарныя кругі** (1—4 з нерухомай воссю, 5 — з рухомай воссю).

пальвалі свінец, волава, медзь; праз металічнае сіта прасявалі вокісы металаў, жарству, жвір. Пры апрацоўцы сыравіны выкарыстоўвалі спецыяльныя прыстасаванні: карыты з тоўстых дубовых дошак або з асінавага ці ліпавага бервяна ў выглядзе жолаба для захавання і падрыхтоўкі фармовачнай масы; драўляныя зэдлі з нахіленай да падлогі плоскасцю для апрацоўкі вялікіх кавалкаў гліны; металічныя таркі; металічныя лапатачкі рознай формы з дзіркамі для перамешвання расплаўленага свінцу (мяшалкі); трох- і чатырохвугольныя драўляныя нажы (шыналь, шнара) для абточкі і аздаблення паверхні посуду; драцяныя зрэзкі (падразанкі) для аддзялення дна сфармаванага посуду ад ганчарнага круга. У Паўн. і Цэнтральнай Беларусі зрэзкай стругалі кавалкі гліны для ачышчэння ад мергелю і інш. дамешкаў. У засцерагальна-дэкаратыўнай апрацоўцы (пераважна на Падняпроўі) ужывалі пытлік — спецыяльнае сітца з густой валасяной або шаўковай сеткай, праз якую абсыпалі керамічныя вырабы парашком палівы. Размалёўвалі вырабы пэндзалікам або ражком (прыстасаванне з каровінага рога з маленькай адтулінай на вострым канцы, у якую ўстаўлялі пісчык з гусінага пяра). Прымянялі і іншыя не вельмі пашыраныя прылады, што мелі другараднае значэнне. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГАНЧАРНЯ**, майстэрня *ганчара*; спецыяльнае памяшканне для вытворчасці *ганчарных вырабаў* саматужным спосабам. У 19—1-й пал. 20 ст. Г. меліся ў заможных майстроў у Гродне, Барысаве, Івянцы, Ракаве, Ружанах і інш. Вясковыя, большасць гарадскіх і местачковых ганчароў працавалі ў хаце. Тыповая Г., дзе разам з яе ўладальнікамі працавала некалькі чалавек, уяўляла сабой цаглянае збудаванне з 2 памяшканнямі. У адным памяшканні ўздоўж сцен стаялі лавы з *ганчарнымі кругамі* (побач з уваходам быў гліннік — месца для захоўвання гліны), у другім — *ганчарны горан* закрытага тыпу і прылады працы для падрыхтоўкі *палівы*. Уздоўж сцен і пад столлю ў абодвух памяшканнях былі паліцы для гатовай прадукцыі і сушэння сфармаваных вырабаў. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГАНЧА́РСТВА**, вытворчасць *ганчарных вырабаў* гаспадарчага і дэкаратыўна-прыкладнога прызначэння з гліны. Назва паходзіць ад слова «горн» («горан», «гарно»). Зарадзілася ў раннім неаліце, у спецыялізаванае рамяство вылучылася са з'яўленнем *ганчарнага круга* (на Беларусі ў 10 ст.). Першапачаткова вырабы ляпілі ад рукі з фармовачнай масы без абпальвання. Паступова асноўным кампанентам фармовачнай масы стала гліна, у якую для павелічэння трываласці дадавалі сухую траву, лубяныя валокны, тоўчаныя ракавіны, жарству, пясок. З 19 ст. фармовачную масу рабілі з аднаго або двух-трох розных гатункаў гліны шляхам працяглай пластычнай апрацоўкі (нагамі, рукамі, доўбняй, таркай, стругам, зрэзкай; гл. ў арт. *Ганчарныя прылады працы*). Падрыхтаваную масу дзялілі на невялікія кавалкі, дастатковыя для вырабу адной пасудзіны (камякі, галкі, галушкі, грудачкі, клёцы, сыскі). Фармавалі пасудзіну на нажным або ручным ганчарным крузе. Спосабы фармоўкі: выцісканне (выбіванне), налеп (пераважна кальцавы), выцягванне або спалучэнне спосабаў. Абпальванне ў *ганчарным горне* (зрэдку ў хатняй печы) складалася з угравання (акурвання, апаркі, падкуркі) і дагонкі (разгонкі). Для засцерагальна-дэкаратыўнай апрацоўкі выкарыстоўвалі механічны ці хіміка-тэрмічны спосабы, у залежнасці ад чаго кераміка падзялялася на гартаваную, паліваную, чорназадымленую (гл. адпаведныя артыкулы).

У эпоху Кіеўскай Русі асноўнымі цэнтрамі Г. былі гарады Полацкай, Тураўскай і Смаленскай зямель, Панямоння. Яго развіццё ў перыяд позняга феадалізму звязана з ажыўленнем эканам. і сацыяльна-палітычнага жыцця, утварэннем рамесніцкіх цэхаў. У 16—



Ганчар за работай. Вёска Гарадная Столінскага раёна. Пач. 20 ст.

18 ст. цэхі, у якія ўваходзілі ганчары, існавалі ў Гродне, Стрэшыне, Брэсце, Мінску, Полацку, Камянцы, Капылі, Міры, Шклове, Слуцку, Клецку, Віцебску, Дзісне. Вядомымі цэнтрамі Г. былі таксама Крычаў, Копысь, Крэва, Магілёў, Лагойск, Дуброўна і інш. Выраб глінянага посуду быў пашыраны і ў шматлікіх вёсках. Сведчаннем высокага ўзроўню Г. быў вываз керамікі на продаж за межы Беларусі. У 17 ст. бел. майстры-кафляры былі запрошаны ў Маскоўскую дзяржаву і прымалі ўдзел у аздабленні Пакроўскага сабора ў Ізмайлаве, надбрамнай царквы Андрэеўскага манастыра, Церамнога палаца і царквы Спаса за Залатой рашоткай у Крамлі і інш.

У перыяд капіталізму Г. развівалася ў дзвюх эканамічных формах — дробнатаварнай (у вёсках было пабочным ад

земляробства промыслам і базіравалася на сямейнай працы, а ў гарадах і мястэчках спалучалася з наёмнай) і мануфактурнай (не атрымала значнага пашырэння, майстэрні з падзелам працы існавалі ў Барысаве, Копысі, Мінску). У 19— пач. 20 ст. (асабліва на Пн і ў цэнтр. паласе Беларусі) існавала шырокая сетка цэнтраў Г. Пераважалі малыя (менш за 10 майстроў) і сярэднія (10—30 майстроў), сустракаліся буйныя (больш як 30 майстроў). Вядомыя цэнтры Г. таго часу — Бабінавічы, Бабруйск, Барысаў, Благаўка, Віцебск, Глыбокае, Горкі, Дарасіно, Дзісна, Дуброўна, Івянец, Касцюковічы,





Фармоўка ганчарнага посуду.

Копысь, Крычаў, Крэва, Ліцвінавічы, Магілёў, Мінск, Мір, Пагост-Загародскі, Поразава, Ракаў, Ружаны, Сіняўка, Чашнікі, Экімань і інш. Найбольш буйнымі цэнтрамі Г. былі Гарадная і Пружаны, у кожным з якіх налічвалася больш за 200 майстроў. У канцы 19— пач. 20 ст. Г. на Беларусі займалася каля 4—4,5 тыс. чалавек.

Беларускія ганчары поўнасцю забяспечвалі сваімі вырабамі насельніцтва Беларусі. Вясковыя рамеснікі прадавалі або абменьвалі іх на збожжа ў навакольнай мясцовасці; на значна большай адлегласці збывалі свой тавар гарадскія і мястэчковыя майстры. Многія карысталіся паслугамі гандляроў-перакупшчыкаў, якія вывозілі вырабы і за межы Беларусі (напр., гарадзянскую кераміку — у Варшаву, Вільню, Кіеў). З аптовым продажам посуду звязана *ганчарная сістэма мер*. Некаторыя рамеснікі ў пошуках рынку збыту перяязджалі працаваць у тыя населеныя пункты, дзе не было канкурэнтаў. Так узнікалі новыя, як правіла, часовыя цэнтры Г. Міграцыя майстроў з Віцебска, Івянца, Міра, Ракава, Янавіч і інш. цэнтраў ахоплівала шырокую зону, уключаючы суседнія раёны Літвы і Расіі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі былі створаны ганчарныя арцелі. Выраб глінянага посуду ў якасці дапаможнага промыслу існаваў у некаторых калгасах. У 1930-я г. саматужная ганчарная вытворчасць прыкметна скарацілася, а ў многіх месцах зусім спынілася. У Зах. Беларусі ў перадваенны перыяд шмат ганчароў займаліся промыслам індывідуальна. У Гродне, Дзісне, Жалудку, Івянцы, Ракаве і інш. працавалі майстэрні, у якіх выкарыстоўвалася наёмная праца. Пасля Айч. вайны ў БССР былі адноўлены старыя і адкрыты новыя ганчарныя арцелі, якія ў 1960 пераўтвораны ў дзярж. прадпрыемствы. У наш час ганчарная вытворчасць існуе на некаторых прадпрыемствах Мін-ва мясцовай прамысловасці і камбінатах будаўнічых матэрыялаў, на Барысаўскім камбінаце прыкладнога мастацтва, у вытворчым аб'яднанні «Беларуская мастацкая кераміка». У традыцыйнай форме яна захавалася ў в. Гарадная (Столінскі р-н), Дрыбін (Горацкі р-н), Новае Вільянова (Шклоўскі р-н), г. п. Поразава (Свіслацкі р-н), Ружаны (Пружанскі р-н), г. Браславе і інш. *С. А. Мілючэнкаў.*

## ГАНЧАРЫ

**ГАНЧАРЫ́**, рамеснікі, спецыялісты па вырабу з гліны посуду і іншых рэчаў (гл. *Ганчарныя вырабы*). У канцы 16—18 ст. ў многіх гарадах Беларусі Г. аб'ядноўваліся (з рамеснікамі іншых спецыяльнасцей) у цэхі. Сяліліся кампактна, фарміруючы цэлыя вуліцы, што атрымалі назвы Ганчарных. Мелі свой статут, які прадугледжваў пэўны парадак прыёму майстроў у цэх, выбараў і справаздач цэхмістраў, правядзення сходак, найму і пераходу па ступеньках цэхавай іерархіі вучняў і чаляднікаў, акрэсліваў іх абавязкі, рэгламентаваў вытворчую дзейнасць, нормы паводзін, забараняў пазацэхавым Г. займацца рамяством і г. д. Тэрмін навучання рамяству Г. (у залежнасці ад узросту вучняў) складаў 4—6 гадоў, пасля чаго тыя маглі працаваць чаляднікамі. Паўнапраўнымі членамі цэха былі толькі майстры. Для атрымання гэтага звання чаляднік павінен быў паказаць сваё майстэрства: зрабіць некалькі рэчаў пэўных памераў — гаршчок і збанок «шырынёю ў тры пядзі», макацёр «велічынёю ў карэц», міску і рынку «шырынёю ў чвэрць». Г., удастоеныя звання майстра, мелі права на адкрыццё ўласнай майстэрні і продаж вырабаў. У параўнанні з вясковымі рамеснікамі гарадскія майстры мелі больш дасканалую тэхналогію вытворчасці, вышэйшую якасць прадукцыі, больш разнастайны яе асартымент.




**Ганчарныя прылады працы:** 1 — пытлік, 2 — шыналі, 3 — зрэзка, 4 — ражок, 5 — мяшалка, 6 — ляшчоткі.

Пасля ліквідацыі ў 1902 цэхавай сістэмы, якая функцыяніравала на падставе заканадаўчых дакументаў канца 18—19 ст., усе Г. маглі самастойна займацца рамяством, мець уласныя майстэрні. У пач. 20 ст. большасць працавала ў вёсках і мястэчках. У вёсках ганчарства звычайна было дадатковым рамяством у гаспадарцы сялян. Прафесійныя навыкі, веды і вопыт звычайна перадаваліся ад бацькоў іх дзецям, сваякам. Г. павінны былі дасканала валодаць пэўнымі навыкамі:




умець выбраць неабходны гатунак гліны, падрыхтаваць фармовачную масу, фармаваць вырабы, рабіць засцерагальна-дэкаратыўную апрацоўку і абпаліць іх. Г. у вёсцы называлі нар. мянушкамі — «гаршкалепы», «гаршчэчнікі», кваліфікаваных рамеснікаў, якія выраблялі паліваную кераміку, — «паліўнікі».

У наш час на дзярж. прадпрыемствах шырока ўжываецца падзел працы, звязаны з выкананнем розных тэхналагічных аперацый — падрыхтоўкай фармовачнай масы, фармоўкай, размалёўкай, тэрмічнай апрацоўкай ганчарных вырабаў. *С. А. Мілючэнкаў.*

**«ГАПАК»**, традыцыйны танец; роднасны укр. харэаграфічнаму ўзору, але мае прынцыпова адметныя рысы. Лакальныя назвы «Гапачок», «Гапак утрох». У большасці выпадкаў выконваецца ўтрох. Танцоры стаяць адзін побач з адным са злучанымі рукамі далонь у далонь на ўзроўні грудзей. «Г.» выконваюць па крузе: танцоры хуткім крокам праходзяць уперад, потым такім жа крокам без развароту ідуць у адваротным напрамку. Найбольш характэрны рух — праход на чарзе тых танцораў, якія стаяць убаку, у «варотцы», створаныя ўзнятымі рукамі двух іншых выканаўцаў. Гэта фігура можа паўтарацца некалькі разоў запар. Асабліва мудрагелістай здаецца яна, калі танцоры, злучыўшы рукі адзін з адным (замкнуты круг), не разрываюць іх да заканчэння танца. Кожная змена фігур у танцы пачынаецца саскокам на абедзве нагі або выкананнем прысядкі. Танец суправаджаецца разнастайнымі прыпеўкамі. У некаторых рэгіёнах выконваецца як імправізаваны танец з неабмежаванай колькасцю ўдзельнікаў. У такім варыянце часта выкарыстоўваецца форма скокаў навыперадкі, суправаджаецца прыпеўкамі. Часам спаборніцтва ў танцы ўключае спаборніцтва ў прыпеўках. Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Паўд. і Паўд.-Усх. Беларусі. *А. Л. Варламаў.*

**ГАРА́**, г а р ы ш ч а, прастора паміж верхам столі і схіламі страхі ў традыцыйнай сялянскай хаце. Выкарыстоўваецца для захавання хатняга начыння, садавіны; на Г. падвешваюць вяленыя каўбасы, кумпякі, сухія сыры і інш. У летні час тут можна спаць. Асвятляецца праз аконца ў шчыце франтона. Падымаюцца на Г. па драбінах з сенцаў ці з каморы, зрэдку — знадворку. Г. адыгрывае вял. ролю ў стварэнні спрыяльнага мікраклімату ў хаце: памагае захоўваць цяпло ўзімку і, наадварот, засцерагае ад перагрэву ў гарачыню. *С. А. Сергачоў.*

**ГАРАДЗІ́ШЧА**, рэшткі старажытнага ўмацаванага паселішча, феадальнай сядзібы-замка, горада. Звычайна пляцоўка на ўзгорку або на мысе, ахаваная прыроднымі перашкодамі (рака, возера, яр, балота) і ўмацаваная равамі, землянымі валамі або сценамі. Узнікненне Г. звязана з развіццём аселасці і паяўленнем прыбавачнага прадукту ў выніку пераходу ад палявання і рыбалоўства да земляробства і жывёлагадоўлі.

На Беларусі найб. пашыраны Г. — пасёлкі патрыярхальна-сямейных абшчын. У басейне Прыпяці і на Пд Верхняга Падняпроўя Г. будавалі плямёны *мілаградскай культуры*, у Верхнім Панямонні і на ПнЗ Верхняга Падняпроўя — *штрыхаванай керамікі культуры*, на Пн Верхняга Падняпроўя, у Вехнім і Сярэднім Падзвінні — *днепра-дзвінскай культуры*. Плямёны *зарубінецкай культуры* выкарыстоўвалі Г. плямён мілаградскай культуры. На Пн і ў сярэдняй частцы Беларусі, дзе пераважае марэнны ландшафт, Г. ставілі на мысах і стромкіх узгорках, у поймах рэк і на берагах азёр, сярод балот. На Пд, дзе мясцовасць раўнінная, Г. будавалі на роўным месцы, на ледзь прыкметных узвышэннях сярод балот або ў забалочаных поймах і на мысах па карэнных берагах рэк. Г. мілаградскай культуры былі



«Гапак у тройках». Выконваюць жанчыны з вёскі Зубарэвічы Глускага раёна.

большых памераў. Форма і планіроўка іх залежалі ад канфігурацыі ўзгоркаў (мысаў), на якіх яны ствараліся. На ранніх Г. жытлы часцей рабілі ўздоўж краю пляцовак ці вала, гаспадарчыя пабудовы размяшчалі ў цэнтры пляцовак. Пазней, з павелічэннем колькасці жыхароў, жытлы і гаспадарчыя пабудовы ставілі на ўсёй тэрыторыі Г. Плямёны мілаградскай культуры жылі і на Г., і на селішчах. На Г. яны ставілі невялікія аднакамерныя дамы слупавой канструкцыі. Сцены рабілі з тонкіх бярвён або з плятня. Падлогу заглыблялі ў зямлю. На позніх Г. будавалі наземныя жытлы. Плямёны днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур жылі толькі на Г. Усе вядомыя на іх тэрыторыі неўмацаваныя паселішчы адносяцца да часу, які папярэднічаў узнікненню Г. або калі Г. як месца сталага пражывання ўжо не існавала. Г. часта раз-



шара. З 1930-х г. пашырылася кераміка з бясколернай і каляровай палівай, памеры посуду зменшыліся. Была папулярнай дробная пластыка ў выглядзе жанравых сцэнак: ганчар ці каваль за работай, музыкі, валы ў запрэжцы, застолле і інш. Фігуркі трактаваліся ў духу наіўнага рэалізму і вызначаліся гумарыстычным характарам. Калекцыя традыцыйнай Г. к. пач. 20 ст. зберагаецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР, вырабы 1920—30-х г.— у Бел дзярж. музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся ў Пінску. *Я. М. Сахута.*

**ГАРАДО́ЦКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з г. Гарадок. Найбольшага развіцця промысел дасягнуў тут у 19—1-й пал. 20 ст. Чырвонагліняная паліваная і непаліваная кераміка гаспадарчага прызначэння (гаршкі, збанкі, гладышы, глякі, вазонніцы, міскі) вызначаецца простымі пластыч-



Гараднянская кераміка.



Гарадоцкая кераміка (Глускі раён).

мяшчаліся групамі па 2—4 у кожнай. Гэта дало падставу некаторым дасledчыкам зрабіць вывад, што на асобным Г. жыла адна патрыярхальна-сямейная абшчына, а група такіх Г. належала патрыярхальнаму роду. У плямён штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур жытлы слупавой канструкцыі складаліся з 3—5 жылых камер, а пазней з 1—2. Сцены рабілі з бярвён, часта абмазвалі глінай. У 4—5 ст. н. э. ўсюды пашырыліся аднакамерныя жытлы зрубнай канструкцыі.

Спачатку Г. ўмацоўвалі толькі па краі пляцовак абарончай сцяной. Абвастрэнне супярэчнасцей паміж родамі і плямёнамі вымушала ўмацоўваць Г. землянымі валамі і равамі. На грабянях валоў часта будавалі драўляныя абарончыя сцены. З 4—5 ст. н. э. Г. саступілі месца неўмацаваным селішчам. Невялікая частка Г. ператварылася ў сховішчы на час ваеннай небяспекі. У познім сярэднявеччы будавалі Г.-крэпасці, у плане яны былі прамавугольныя, квадратныя, трохвугольныя. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ГАРАДНЯ́НСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з в. Гарадная Столінскага р-на. Як ганчарны цэнтр вёска вядома з 15 ст. У 19— пач. 20 ст. ганчарствам займалася каля 200 сем'яў (у 1920—30-я г. каля 500), якія забяспечвалі вырабамі амаль усё Цэнтр. і Усх. Палессе. Выраблялі гаршкі, збанкі (глечыкі), гладышы, вазонніцы, глякі, слоікі, цёрлы (макотры), кубкі, міскі. У залежнасці ад аб'ёму гаршкі мелі розныя назвы (гл. ў арт. *Ганчарная сістэма мер).* Традыцыйная Г. к.— белагліняная, непаліваная, аздобленая хвалістымі і роўнымі паяскамі і косымі рыскамі чырвона-карычневага колеру (рубежык), нанесенымі чырвонай глінай (ангіска) у 2—3 рады на верхнюю частку вырабаў. Посуд вызначаецца буйнымі, ёмістымі формамі, блізкімі да ными формамі з мякка апрацаванай паверхняй, светлы тэракотавы колер якой падкрэсліваецца маляўнічымі падцёкамі палівы фіялетава-карычневага колеру. Калекцыі Г. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР і інш. *Я. М. Сахута.*

**ГАРАДО́ЦКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з в. Гарадок Глускага р-на. Промысел вядомы са старажытнасці, у 1930—80-я г. працавала ганчарная арцель. Выраблялі паліваны чырвонагліняны посуд: гаршкі, збаны, гладышы, слоікі, макатры, міскі, глякі, фігурны посуд, цацкі. Вырабы вызначаюцца ўраўнаважанасцю і закончанасцю форм, высокай якасцю абпальвання, у выніку чаго празрыстая паліва мае добры бляск і роўны колер на ўсёй паверхні. Часам посуд дэкарыравалі гравіраваным хвалістым малюнкам.

**ГАРАДСКІ ЛАД ЖЫЦЦЯ́**, сукупнасць тыповых форм і спосабаў жыццядзейнасці людзей ва ўмовах гарадскога населенага пункта. Пачаў фарміравацца ў рабаўладальніцкім грамадстве разам з утварэннем гарадоў у выніку аддзялення рамёстваў ад земляробства. У той час узнікла процілегласць паміж горадам і вёскай, якая ў эканам. сферы праяўлялася ў гаспадарчым панаванні вёскі гораду, у сацыяльнай — у эксплуатацыі сельскіх працаўнікоў уладальнікамі сродкаў вытворчасці, у палітычнай — у панаванні горада над вёскай, у культурнай — у канцэнтрацыі ў гарадах навучальных і навуковых устаноў, культурных каштоўнасцей, да якіх сельскія жыхары мелі абмежаваны доступ. Асаблівасці Г. л. ж. абумоўліваюцца спецыфікай гарадской эканомікі і заняткаў насельніцтва, значна большым, чым у вёсцы, раздзяленнем працы, большай канцэнтрацыяй у гарадах рабочага класа і інтэлігенцыі, больш спрыяльнай магчымасцю пераходу з адной сацыяльнай групы ў другую, значна вышэйшым узроўнем адукацыі гарадскіх жыхароў, лепшым развіццём транспарту, сувязі і інш. камунікацыйных сродкаў, культурнага, бытавога і медыцынскага абслугоўвання, больш разнастайнай этнічнай стракатасцю гарадской супольнасці.

Г. л. ж. ў дасав. час залежаў ад матэрыяльнага забеспячэння, сацыяльнага становішча жыхароў. Сацыяльнае становішча абумоўлівала ўзровень даходаў, працоўную занятасць і побыт, характар працы (разумовая для прывілеяваных слаёў, фізічная для іншых), жыллёвыя ўмовы, адзенне, харчаванне. Ад сацыяльнага становішча залежалі формы правядзення вольнага часу, магчымасць атрымаць адукацыю, карыстацца паслугамі ўрачоў, бытавых устаноў. Гэтыя паказчыкі залежалі і ад нацыянальнай прыналежнасці. Г. л. ж. таго перыяду характарызаваўся і нацыянальнай адасобленасцю. У Г. л. ж. капіталістычнага перыяду з'яўляліся парасткі новага ладу жыцця. У асяроддзі рабочага класа, перадавой інтэлігенцыі фарміраваліся такія рысы, як калектывізм, інтэрнацыяналізм.

За гады Сав. улады ў Г. л. ж. адбыліся карэнныя змены. Зніклі эксплуататарскія класы і эксплуатацыя чалавека чалавекам. Аснову сацыяльнай структуры гарадскога насельніцтва ўтварылі дружалюбныя грамадскія групы: рабочы клас, інтэлігенцыя, служачыя. Рабочы клас вырас колькасна і змяніўся якасна. Ён стаў галоўнай вытворчай сілай грамадства, заняў вядучае месца ў развіцці сацыялізму. Вырасла яго сацыяльная і грамадска-палітычная актыўнасць, кваліфікацыя, адукацыйны і культурны ўзровень. Механізуецца і аўтаматызуецца праца рабочых, паляпшаецца вытворчы побыт. Сярод рабочых павялічваецца праслойка рабочых-інтэлігентаў, якія інтэлектуальным, адукацыйным і культурным узроўнем набліжаюцца да інжынерна-тэхнічных работнікаў. Сучасную інтэлігенцыю складаюць выхадцы з народа. Павялічваецца яе колькасць, ускладняецца прафесійны састаў. Інтэнсіўна павялічваецца лік прадстаўнікоў масавых прафесій (настаўнікаў, урачоў, культурна-масавых работнікаў і інш.). Тэхнізуецца і камп'ютэрызуецца праца навуковых супрацоўнікаў, інжынераў, канструктараў, бухгалтараў і інш. Больш разнастайнымі становяцца іх грамадская і культурная дзейнасць. Пашыраецца сацыяльная праслойка служачых, асабліва ў гандлі і бытавым абслугоўванні, ускладняецца сфера іх дзейнасці. Узрастаюць патрабаванні да арганізацыі іх працы, павышэння кваліфікацыі і культуры. Умацоўваецца сацыяльнае адзінства гарадскога насельніцтва, фарміруюцца агульнагарадскія рысы побыту і культуры розных сацыяльных груп, замацоўваюцца якасныя паказчыкі сацыялістычнага ладу жыцця (калектывізм, інтэрнацыяналізм, гуманізм і г. д.). Страціла свой сацыяльны сэнс гарадская ўскраіна. Цяпер тут размяшчаюцца сучасныя жылыя мікраёны з установамі культурна-бытавога абслугоўвання (дзіцячыя сады і яслі, школы, сталовыя, магазіны, кінатэатры і інш.), спартыўныя пляцоўкамі і зялёнымі зонамі. Знікла нацыянальная замкнутасць насельніцтва горада. Сацыяльнае становішча цяпер не адыгрывае істотнай ролі пры размеркаванні жылля і інш. сацыяльных даброт. Многія гараджане забяспечваюцца бясплатнымі дзяржаўнымі кватэрамі згодна ўстаноўленай чаргі. Частка іх будуе кватэры кааператыўным і гаспадарчым спосабамі, узводзяцца маладзёжныя жыллёвыя комплексы, у якія ўваходзяць жылыя і культурна-бытавыя памяшканні. Пашыраецца будаўніцтва загарадных дачных домікаў. Знікаюць сацыяльныя адрозненні ў добраўпарадкаванні кватэр, у наяўнасці ў іх прадметаў і механізмаў культурна-бытавога прызначэння. Сацыяльнае становішча гараджан не адыгрывае істотнай ролі ў іх харчаванні ці ў адзенні, якое ўсё больш залежыць ад моды. Узрастаюць патрабаванні да працоўнай дзейнасці і правядзення вольнага часу. Праца ўспрымаецца і як крыніца атрымання сродкаў для існавання, і як сфера задавальнення маральных патрэбнасцей, рэалізацыі сваіх творчых патэнцый і здольнасцей. Таму прад'яўляюцца больш высокія маральныя патрабаванні да адносін паміж работнікамі ў працэсе працы, эстэтычныя патрабаванні да месца працоўнай дзейнасці, рабочага адзення, правядзення абедзенных перапынкаў, вытворчага побыту. Больш увагі аддаецца павышэнню кваліфікацыйнага, адукацыйнага, інтэлектуальнага, эстэтычнага ўзроўню, грамадскай і культурнай дзейнасці, тэхнічнай творчасці, выхаванню дзяцей. Папулярны наведванне тэатраў, кінатэатраў, канцэртных залаў, клубных устаноў, паркаў, спартыўных мерапрыемстваў, заняткі фізкультурай і спортам, удзел у мастацкай самадзейнасці, сустрэчы з сябрамі, заняткі па інтарэсах, адпачынак на дачы, у заводскім ці фабрычным прафілакторыі, рыбная лоўля, турызм, паездкі ў вёску да родных і сваякоў або ў лес для збору грыбоў і ягад, а таксама дамашнія формы адпачынку — прагляд тэлеперадач, чытанне, слуханне радыё, грампласцінак, магнітафонных запісаў і г. д. Развіваецца абраднасць. Новыя змест і формы набылі традыцыйныя нар. святы і абрады, укараняюцца ў побыт новыя. Адрозненні ў правядзенні вольнага часу ў асноўным абумоўліваюцца духоўнымі запатрабаваннямі людзей, аматарскімі захапленнямі, сямейным становішчам, узростам, забяспечанасцю горада культурна-асветнымі і спартыўнымі ўстановамі, дзейнасцю работнікаў, у службовыя і грамадскія функцыі якіх уваходзіць арганізацыя культурнага адпачынку насельніцтва. Для сучаснага горада характэрны і непажаданыя формы бытавой дзейнасці: трата часу на чэргі ў магазінах і бытавых установах, паездкі ў транспарце, перагружанасць жанчын у параўнанні з мужчынамі дамашнімі работамі, а таксама адмоўныя формы правядзення вольнага часу: марнатраўства, п'янства і інш. Для побыту жыхароў інтэрнатаў характэрны больш дынамічныя і шматлікія кантакты з людзьмі ў нерабочы час, карыстанне грамадскімі сталовымі, кухнямі і інш. бытавымі выгодамі, калектыўныя формы адпачынку. Розніца лад жыцця гарадоў з неаднолькавым функцыянальным прызначэннем (адміністрацыйныя цэнтры, прамысловыя гарады, гарады-курорты і г. д.), лад жыцця буйных, сярэдніх, асабліва малых гарадоў, гарадскіх пасёлкаў, старых і малады гарадоў. Асаблівасці абумоўліваюцца гарадской вытворчай і сацыяльнай інфраструктурай, сувязямі з сельскай гаспадаркай, прыродным асяроддзем і інш. У мэтах удасканалення размяшчэння вытворчых сіл значная ўвага аддаецца малым гарадам. Яны добраўпарадкоўваюцца, змяняецца іх сацыяльная структура, развіваюцца сферы бытавога, культурнага і медыцынскага абслугоўвання; у іх будуюцца невялікія прамысловыя прадпрыемствы ці філіялы буйных фабрык і заводаў. Змяняецца аблічча і гарадскіх пасёлкаў, якім у пэўнай меры характэрны рысы *сельскага ладу жыцця*.

Развіццё Г. л. ж. праходзіць у рамках урбанізацыйных працэсаў; росту колькасці гарадоў і гарадскога насельніцтва, павышэння ролі гарадоў у жыцці грамадства. Урбанізацыя пры сацыялізме рэгулюецца планавай сістэмай нар. гаспадаркі. Яна разам з сацыяльна-эканамічнымі, культурнымі працэсамі ў цэлым станоўча адбіваецца на ладзе жыцця карэнных жыхароў гара-

да і мігрантаў; выхадцы з вёскі засвойваюць гарадскія формы арганізацыі працы, побыту, правядзення вольнага часу, культуры гараджан. Разам з гэтым былыя вяскоўцы ўносяць у Г. л. ж. элементы сельскага побыту, культуры, абрады, традыцыі, каштоўнасці нар. творчасці. Горад станоўча ўплывае на жыццядзейнасць сельскіх жыхароў, перадаючы ў вёску пазітыўныя элементы вытворчай, бытавой і культурнай дзейнасці. Тут рыхтуюць кадры для сяла, павышаюць кваліфікацыю сельскія працаўнікі. Многія сельскія жыхары набываюць у горадзе неабходныя тавары гаспадарчага, бытавога і культурнага прызначэння, задавальняюць свае культурныя патрэбнасці. Шматлікія гараджане праводзяць свой адпачынак, выхадныя і святочныя дні ў вёсцы, а многія вяскоўцы — у горадзе. Урбанізацыя побач з пазітыўнымі вынікамі выклікае ў Г. л. ж. і непажаданыя з'явы і праблемы: скучанасць насельніцтва, забруджванне навакольнага асяроддзя, павышэнне загазаванасці паветра, шум, абмежаванне кантактаў з прыродай, абвастрэнне праблем жылля, транспарту, бытавога і медыцынскага абслугоўвання, аслабленне сувязей з роднымі і сваякамі. Не пераадолены і некаторыя адмоўныя з'явы жыцця (хуліганства, п'янства, наркаманія, таксікаманія, прастытуцыя). Прыцягваючы многіх мігрантаў з вёскі, горад стварае ў сельскагаспадарчай вытворчасці праблему працоўных рэсурсаў і стабільнасці працоўных калектываў. Прыток у гарады выхадцаў з інш. рэспублік, прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей актывізуе этнічныя працэсы ў гарадскіх супольнасцях. Ускладненне этнічнай структуры гарадскога насельніцтва прыводзіць да развіцця этнічнай мазаічнасці працоўных і навучальных калектываў, росту міжнацыянальных шлюбаў, павелічэння міжэтнічных кантактаў, узаемаабмену этнакультурнымі каштоўнасцямі і інфармацыяй (працоўнымі навыкамі і ўменнем, абрадамі, звычаямі, дасягненнямі нар. творчасці, прадметамі афармлення жылля, кулінарнымі рэцэптамі, элементамі адзення), што вядзе да далейшай інтэрнацыяналізацыі Г. л. ж., зацвярджэння яго агульнасав. рыс,, узбагачэння побыту і культуры гараджан. Нягледзячы на ліквідацыю процілегласці паміж горадам і вёскай, горад працягвае адыгрываць вядучую ролю ў эканам. і культурным жыцці, развіцці сацыялістычнага ладу жыцця.

*І. М. Браім.*

**ГАРА́ЧЫКІ**, памінальная страва. З прэснага мучнога цеста пяклі галушкі (звычайна тры). Кожны, хто прысутнічаў на памінках, адломліваў па кавалачку (адсюль праклён: «Каб па табе Г. напяклі»). Елі з сытою, цёртым макам. Вядома на Усх. Палессі.

**ГАРБА́РНЯ**, майстэрня, прадпрыемства, дзе выраблялі скуры для абутку (гл. *Гарбарства)*. У 1-й пал. 19 ст. побач з вотчыннымі гарбарнымі мануфактурамі ўзнікалі мяшчанскія і купецкія Г. з вольнанаёмнай працай. Паводле звядчання П. *Баброўскага*, у сярэдзіне 19 ст. ў Гродзенскай губ. дзейнічала 70 купецкіх гарбарных «заводаў», большасць якіх была ў Кобрынскім, Ваўкавыскім і Бельскім паветах. У Мінскай губ. ў 1870-я г. ў 7 паветах дзейнічалі 62 Г. са 140 рабочымі, у т. л. 47 з 12 рабочымі ў Слуцкім і Рэчыцкім паветах. У 1887 на Міншчыне было 128 Г., якія належалі пераважна мяшчанам. Тыповымі ў 19— пач. 20 ст. былі невял. Г., дзе працавалі гаспадар і члены яго сям'і або нанятыя рабочыя. Большасць Г. налічвалі ад 2—5 да 10 рабочых.

*Н. І. Буракоўская.*

**ГАРБА́РСТВА**, рамяство па вырабу скур для пашыву *абутку*. Сыравінай служылі скуры рагатай жывёлы (бykoў, цялят, кароў-ялавак, авечак, коз), зрэдку коней, свіней. Сырыя скуры кансервавалі метадам салення (мокрасаленне, сухасаленне) і сушэння. Для мокрасалёнай кансервацыі *бахтарму* (мяздру) пасыпалі соллю або пагружалі скуру ў канцэнтраваны раствор солі. Пры сухасалёным метадзе скуру пасля засолкі сушылі, пры прэснасухім — сушылі без засолкі. Традыцыйная тэхніка вырабу скур уключала падрыхтоўчыя аперацыі (мачэнне, заленне, мяздрэнне, ачыстка ад шэрсці, абяззольванне, квашанне), *дубленне* і апрацоўку. Усе аперацыі праводзіліся ўручную. Мачылі скуры ў рацэ або ў чанах (драўляных бочках), потым апрацоўвалі водным растворам попелу і вапны. Са скур ачышчалі шэрсць і мяздру звычайнай касой і нажамі з адной ці дзвюма ручкамі (скобля, струг) на калодзе (пласе, кабылцы) — нахіленай паўкруглай дошцы. Адна- і двухручныя прылады вядомы са старажытнасці (бел. археолагамі знойдзены нож-тупік 12 ст., Дзярж. музей БССР). Атрыманы паўфабрыкат — галлё — абяззольвалі, каб скура не была ломкай, цвёрдай. Для гэтага яе старанна паласкалі ў вадзе, «квасілі» ў водным растворы вотруб'я або мукі (аўсянай, жытняй, пшанічнай, ячнай), кухоннай солі. У нар. практыцы часта квашанне адсутнічала, а на Палессі замест залення практыкавалі «паценне» ў гноі. Дубленне скуры праводзілася, каб яна стала вільгаценепранікальнай, мяккай, эластычнай (для верху абутку) або, наадварот, цвёрдай, каб не стоптвалася (для падэшвы). Апрацоўка скур уключала фарбаванне, пакрыццё тлушчам («жыроўка»), глянцаванне (лашчэнне), стругание, мяцце. У 19 ст. на Беларусі для фарбавання юхты ў чорны колер ужывалі жалезны купарвас, брызэль, чорны сандал, а саф'ян, акрамя купарвасу, фарбавалі яшчэ цындрай (жалезнае пілавінне), індыга і інш. У якасці тлушчу выкарыстоўвалі барозавы дзёгаць, алей, ялавічны тлушч, *ворвань*. Падэшвенную скуру не тлушчылі і не фарбавалі. Прасушаную пасля тлушчэння скуру стругалі (апрацоўвалі мяздру). Потым яе мялі, выкачвалі, глянцавалі драўлянымі качалкамі з нарэзамі, каткамі, бялянам. Гатовыя скуры адрозніваліся па гатунках: юхт (скура для верху абутку), падэшвенная, апойка (скура з цяляці-сысунка), саф'ян (мяккая скура з казліных, цялячых, авечых скур), замша (авечая ці аленевая скура без верхняга пласта), лайка (з авечых скур). Юхт і апойку выраблялі белага, шэрага і чорнага колераў, саф'ян — часцей каляровы (чырвоны, жоўты, зялёны, чорны).

Г. было пашырана пераважна ў мястэчках і гарадах, а з сярэдзіны 19 ст.— і ў вёсках, калі заможныя сяляне пачалі шыць скураны абутак. У канцы 19— пач. 20 ст. гарбарная вытворчасць развівалася як фабрычна-заводская і саматужная (апошняя пераважала). Тыповымі былі невялікія *гарбарні*, у якіх працавалі гаспадар з 2—4 рабочымі або членамі сям'і. Для вясковых майстроў Г.— дапаможны занятак. Пашырана было амаль ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Найбольшымі цэнтрамі Г. былі Гродна, Мір, Ліда, Пружаны, Кобрын, Ашмяны, Смаргонь, Віцебск, Полацк, Лепель, Усвяты, Магілёў, Шклоў, Крычаў, Клімавічы, Давыд-Гарадок, Тураў, Петрыкаў, Слуцк, Мазыр, Брагін, Рэчыца. Высокай якасцю славіліся магілёўскія і мазырскія скуры, якія карысталіся вялікім попытам і за межамі Беларусі. У 1920—40-я г. саматужнае Г. было забаронена. У 50-я г. кааператыўна-прамысловыя арцелі рэарганізаваны ў дзярж. прадпрыемствы. Скуры для абутку вырабляюць Бабруйскі гарбарны камбінат, Мінскі, Магілёўскі і Гродзенскі гарбарныя заводы, Пінскі завод штучных скур. У гарбарнай вытворчасці выкарыстоўваюць рацыянальныя элементы нар. вопыту, а тэхналагічны працэс апрацоўкі скуры захоўвае ўсе асноўныя традыцыйныя аперацыі; аперацыі залення вапнай, дублення дрэвавай карой і некаторыя інш. амаль не змяніліся.

*Н. І. Буракоўская.*

**ГАРБАРЫ́**, рамеснікі па апрацоўцы і вырабу скур; гл. ў арт. *Гарбарства.*

**ГАРБАЧЭ́ЎСКІ** Іван Данілавіч (1860—1914), беларускі этнограф, фалькларыст, краязнавец. Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю (1877), Віленскі настаўніцкі ін-т (1885). Выкладаў у Далыскім народным (1877—87), Невельскім павятовым (1885—89) вучылішчах. У 1889—1912 на поўдні. З 1912 жыў і працаваў у Рагачове. Вывучаў гісторыю, фальклор і побыт беларусаў. Друкаваўся ў газетах «Витебские губернские ведомости», «Виленский вестник» і інш. Асноўная праца — «Старажытнасць беларускіх песень і іх напеваў» (1896). У ёй адзначаў паэтычнасць і прыгажосць бел. песень, шырока выкарыстаў ілюстрацыйны матэрыял. Аўтар гісторыка-этнагр. нарысаў «Зямля і Араты» (1894), «Лепельскі павет Віцебскай

губерні» (1895), даследаванняў «Пра валокі Вялікага воднага шляху з варагаў у грэкі» (1894), «Уніз па Дзвіне» (1895), аповесцей «Старына старадаўняя» (1897) і «Што з ёю будзе?» (1898, выкарыстаны бел. фальклорна-этнагр. матэрыял), антываеннага твора «Не дайшоў да роднай вёскі» (нап. 1899). Пісаў апавяданні для дзяцей. Прыхільнік стварэння пры школах садоў і агародаў, пчальнікоў, майстэрняў і інш.

*Тв.:* Сельский учитель. Витебск, 1895; Экономический очерк Невельского уезда. Витебск, 1895; Тихая отрада. Витебск, 1896. *В. І. Скідан.*



Гарлачы.



Гармонік.

**ГАРБУЗЯ́НКА,** традыцыйная страва. Лакальная назва гарбузовая каша. Ачышчаны гарбуз крышаць, дабаўляюць крупы (часцей за ўсё прасяныя) і вараць. Згатаваную Г. таўкуць, часам ставяць у лёгкі дух, заліваюць параным малаком, дадаюць соль, цукар, масла. Пашырана на ўсёй Беларусі.

**ГАРЛА́Ч,** ганчарны выраб; гліняная пасудзіна для захавання малака і малочных прадуктаў. У пісьмовых крыніцах старажытнарускага часу вядомы пад назвай «кринъ». Рабілі з выцягнутым тулавам, пукатымі бакамі і звужанай шыйкай, але шырэйшым за дно вусцем (без ручкі і дзюбкі). У гісторыі развіцця ганчарных вырабаў быў прататыпам *збана.* Прапорцыі сілуэта Г. маюць мясцовыя адрозненні: на ПдЗ пераважаюць з аб'ёмным тулавам, на У — падоўжаныя, зграбныя па абрысах, на ПнЗ — слабапрафіляваныя з шырокім горлам. Найбольш ярка лакальныя асаблівасці выяўляюцца ў мясцовых назвах: на Падняпроўі і сумежных з ім паўд.-ўсх. раёнах Падзвіння — гарлач, на З — стаўбун, на ПнУ Падзвіння — жбан, на Палессі, у зах. р-нах Цэнтр. Беларусі — гладыш, ладыш, у паўн.-зах. раёнах — збан, паралельна ўжывалася назва *берасцень* (звязана з даўняй традыцыяй аплятаць Г. стужкамі бяросты). Выраблялі Г. гартаваныя, чорназадымленыя і паліваныя. Упрыгожвалі глянцаваннем, прачэрчаным па сырой паверхні лінейна-хвалістым арнаментам, геаметрычным і раслінным *ангобнай размалёўкай* і каляровымі фарбамі. *С. А. Мілючэнкаў.*



Гаршкі.

**ГАРМО́НІК,** язычковы пнеўматычны клавішны музычны інструмент. Лакальныя назвы гармошка, гармонь. Галоўныя канструкцыйныя часткі: корпус (паводле бел. нар. тэрміналогіі — каробка), мех, меладычныя і басавыя клавіятуры (галасы, басавікі), стальныя язычкі (пішчыкі). Прыйшоў на Беларусь з Расіі ў 2-й пал. 19 ст., спачатку на Віцебшчыну, у 20 ст. пашырыўся на астатняй тэрыторыі. Займае адно з вядучых месцаў у нар. інструментарыі. Найбольшае пашырэнне атрымалі 2 разнавіднасці Г.— хромка (грамацюка) і венка. Выкарыстоўваецца як інструмент сольны і ансамблевы, разам з ударнымі (бубнам, барабанам, вугольнікам), струннымі (скрыпкай, цымбаламі), духавымі (кларнетам, трубой). У сялянскім побыце Г. выраблююцца саматужным спосабам. На Маладзечанскай фабрыцы музычных інструментаў наладжаны прамысловы выраб Г. Інструмент выкарыстоўваецца ў самадзейнай, часам і ў прафесійнай практыцы. *І. Дз. Назіна.*

**ГА́РНЕЦ,** 1) адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у сістэме мер Вялікага княства Літоўскага. Сейм 1766 зацвердзіў Г. малы (шынковы), роўны 2,8237 л; Г. вялікі (цэхавы) — у два разы большы — 5,5474 л. У *бочку віленскую* ўмяшчалася 144 Г. малыя, ці 72 Г. вялікія. Да ўвядзення метрычнай сістэмы мер карысталіся Г., роўным 3,28 л. 2) Пасудзіна такой ёмістасці.

**ГАРНУ́ШАК,** маленькі *гаршчок.*

**ГАРСЭТ,** к а б а т, састаўная частка народнага касцюма беларускіх жанчын — адзежына ў выглядзе безрукаўкі. Лакальныя назвы шнуроўка, станік, кітлік. Апраналі паверх кашулі да святочнага ўбору. Шылі Г. на падшэўцы (у 19 — пач. 20 ст. спецыяльныя краўцы) з даматканых і фабрычных (сацін, тонкае сукна, шарсцянка, танныя гатункі парчы, аксаміт, шоўк) тканін чорнага, фіялетавага, сіняга, блакітнага, чырвонага, малінавага колераў. Спераду зашпільвалі на гузікі ці гаплікі або зашнуроўвалі тасёмкай, стужкай, шнуром. Паводле крою падзяляюцца на 3 групы: кароткія (не дасягаюць таліі), прамыя, нагадваюць ліф (турава-мазырскі, капыльска-клецкі строі); доўгія, прышытыя да спадніцы (краснапольскі, давыд-гарадоцка-тураўскі строі); прыталеныя з адразной баскай у кліны ці фальбоны (дамачаўскі, калінкавіцкі, навагрудскі, ляхавіцкі строі). Яркім мастацкім афармленнем вызначаліся Г. Цэнтр. Беларусі, Усх. і Зах. Палесся. Упрыгожвалі іх стракатымі пампонамі і мохрыкамі, касцянымі, драўлянымі, металічнымі, плеценымі са шнура гузікамі, нашыўкамі і аблямоўкамі з каляровай тасьмы, тканін, скуры, галуна, паскамі карункаў, а таксама вышыўкай,

узорыстым натыканнем. Асноўны дэкор канцэнтраваўся на грудзях, праходзіў па краях проймы, гарлавіны, крысся, нізу баскі, уздоўж канструкцыйных ліній. У арнаменце вышывак (ланцужком, гладдзю) пераважалі паліхромныя раслінныя ўзоры — кветкі валошкі, сцяблінкі бярозы, лісце. У наш час Г. сустракаецца ў традыцыйных касцюмах пажылых жанчын на Палессі і Падняпроўі. *М.Ф. Раманюк.*

**ГАРТАВА́НАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы, якія пасля абпальвання адразу загартоўвалі ахалоджваннем у *абвары* для павелічэння трываласці і змяншэння порыстасці (водапранікальнасці) чарапка. Лакальныя назвы абварная кераміка. Звычайна выраблялі з грубай фармовачнай масы (гліны і *жарствы* ці пяску). У залежнасці ад рэцэптурнага саставу абвары вырабы набывалі плямістую афарбоўку або цалкам пакрываліся налётам чорнага ці чорна-карычневага колеру (у нар. лексіцы вядомы пад назвамі рабая, шэрая, чорная). На Беларусі Г. к. выраблялі пераважна на Пн і ў сярэдняй паласе. Яе асартымент складаўся з гаршкоў, латак, патэльняў, макатроў, гарлачоў. Найбольш поўным ён быў у сельскіх ганчарных цэнтрах (Лыжычы, Сяроды Мядзельскага, Філіпоўцы, Буцавічы, Мышкі Пастаўскага, Забалоцце Смаргонскага, Стары Дзедзін Клімавіцкага, Сіняўка, Масцілавічы Клецкага р-наў). У гарадах і многіх мястэчках (Глыбокае, Чашнікі, Дзісна, Сянно, Касцюковічы, Чавусы, Мір, Івянец) Г. к. выраблялі паралельна з *чорназадымленай керамікай* і *паліванай керамікай* і яна была прадстаўлена толькі пячным посудам — гаршкамі, латкамі. Г. к. ў 1970—80-я г. выраблялі ў в. Ганевічы Клецкага р-на. Калекцыі Г. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР і інш. *С. А. Мілючэнкаў.*



Гартаваная кераміка.

**ГАРШЧО́К,** ганчарны выраб; гліняная пасудзіна для гатавання гарачай стравы, захавання сыпкіх рэчываў і інш. Назва «Г.» паходзіць ад старажытнарускай «гърнецъ». Яго форма добра прыстасавана для хуткага і раўнамернага награвання ў напаленай печы: круглы з пукатымі бакамі, звужаным плоскім дном і вусцем, абкружаным венцам (нярадка з накрыўкай і 1—2 ручкамі для зручнасці карыстання). Для большай трываласці Г. часам аплялі дротам. Выраблялі з фармовачнай масы павышанай вогнетрываласці з дамешкам *жарствы*, пяску, а пасля абпальвання гартавалі ў *абвары*. Былі пашыраны таксама чорназадымленыя і паліваныя Г. Дэкор стрыманы або зусім адсутнічаў. Аздаблялі звычайна глянцаваным і прачэрчаным па сырой паверхні геаметрычным арнаментам, радзей *ангобнай размалёўкай*. Памеры Г. самыя розныя — ад 0,5 л да 10—15 л (на Прыпяцкім Палессі вядомы вялікія Г.— на 1—1,5 і да 2,5 пудоў жыта). У маленькіх Г. парылі малако, варылі дзецям кашу, заварвалі лекавыя расліны. У пасудзінах сярэдніх памераў гатавалі ежу на ўсю сям'ю, у вялікіх — студзень, корм для жывёлы, часам вываривалі бялізну і інш. Мясцовыя назвы Г. вельмі разнастайныя і звязаны звычайна з абазначэннем ёмістасці ў *ганчарнай сістэме мер* (мамзэль, паўзлівач і інш.) з памерамі (гарнушак), асаблівасцямі бытавога прызначэння (абеднік, адлеўнік, варэйка, пітушка) і інш. Два ці тры змацаваныя ручкай Г., у якіх бралі ежу ў поле, называлі *спарышамі*. У наш час бытуюць Г. невялікіх і сярэдніх памераў. Найбольш пашыраны ў вёсках; у гарадзе ўжываюцца для гатавання нацыянальных страў. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГАРЫШЧА,** прастора паміж верхам столі і схіламі страхі ў традыцыйнай сялянскай хаце; тое, што і *гара.*



Святочны дзявочы касцюм з гарсэтам. Светлагорскі раён. Пачатак 20 ст.

**ГАРЭЦКІ** Гаўрыла Іванавіч [28.3 (10.4).1900, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р-на — 20.11.1988], беларускі савецкі геолаг. Акад. АН БССР (1928), д-р геолага-мінералагічных навук (1946). У 1924—28 правадзейны чл. Ін-та бел. культуры. Засл. дзеяч навукі БССР (1972). Скончыў Маскоўскую с.-г. акадэмію (1924). У 1924—25 выкладчык эканам. геаграфіі ў Бел. сектары Камуністычнага ун-та нац. меншасцей Захаду. З 1925 дацэнт Бел. с.-г. акадэміі, з 1927 дырэктар Бел. НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. У 1931—68 працаваў у інжынерна-геалагічных экспедыцыях Гідрапраекта СССР. У 1969—85 заг. аддзела (з 1977 лабараторыя) геалогіі і палеапатамалогіі антрапагену Ін-та геахіміі і геафізікі АН БССР. Асноўныя даследаванні па геалогіі антрапагену і інжынернай геалогіі. Апублікаваў таксама працы па фальклоры, эканоміцы, эканам. геаграфіі, дэмаграфіі, этнастатыстыцы, сельскай і лясной гаспадарцы. У працы «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» (1928), прааналізаваўшы матэрыялы афіцыйнай польскай статыстыкі, аргументавана выкрыў тэндэнцыйнасць публікацый шэрагу польскіх буржуазных даследчыкаў, якія скажалі нац. склад насельніцтва Зах. Беларусі, атаясамліваючы каталіцкае веравызнанне часткі беларусаў з польскай нацыянальнай прыналежнасцю. У арт. «Нацыянальныя асаблівасці насельніцтва БССР і беларуская насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 году»

10. Зак. 566





**Гафт** (фрагмент арната). Петрапаўлаўскі касцёл, вёска Дрысвяты Браслаўскага раёна.

**Гафт** (фрагмент сурвэткі). З царквы манастыра базыльян. Вёска Баруны Ашмянскага раёна.

(1929), грунтуючыся на матэрыялах перапісаў 1897 і 1926, разглядаў этнічныя працэсы на тэр. рэспублікі, становішча бел. этнічнай групы ў розных рэгіёнах СССР (у прыватнасці ў раёнах традыцыйнага пражывання на Смаленшчыне, Пскоўшчыне і Браншчыне). Сярод іншых прац — «Насельніцтва БССР» (1926), «Насельніцтва Гомельскай губерні» (1926). У 1927—28 кандыдат у члены, у 1929—30 член ЦВК БССР. Дзярж. прэмія СССР 1971.

*Літ.:* Бібліяграфія навуковых прац акадэміка АН БССР Г. І. Гарэцкага. Мн., 1980. *І. В. Карашчанка.*

**ГАСПАДА́РЧА-КУЛЬТУ́РНЫ ТЫП,** гістарычна абумоўлены комплекс асаблівасцей гаспадаркі і культуры, што складваецца ў блізкіх па ўзроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця народаў, якія жывуць у падобных геаграфічна-кліматычных і ландшафтных умовах. Г.-к. т. канкрэтнага грамадства залежыць ад асноўнага спосабу вытворчасці, які вызначае характар узаемадзеяння людзей з навакольным асяроддзем у розныя гіст. эпохі. У сав. этнагр. літаратуры ўсе Г.-к. т., што скл‌аліся і існавалі ў народаў свету да перыяду капіталізму, аб'яднаны ў 3 галоўныя групы. Першая з іх уключае народы Пн Азіі, Пн Еўропы, Амерыкі і Аўстраліі, асноўным гаспадарчым заняткам якіх было *паляўнічтва, рыбалоўства* і *збіральніцтва.* Да гэтай групы належала і насельніцтва тэр. Беларусі ў эпоху жалеза і ў больш раннія часы. Другая група — этнічныя супольнасці, асноўным спосабам вытворчасці якіх былі *жывёлагадоўля* і ручная (матычная) землеапрацоўка (большасць народаў Афрыкі, Паўд. Амерыкі, Паўн. Еўропы, азіяцкіх высакагор'яў). Трэцяя група, у якую разам з большай часткай народаў Усх. і Зах. Еўропы, Паўд.-Усх. Азіі ўключаны і беларусы,— група ворыўных земляробаў. У кожнай з гэтых груп выдзяляюцца больш дробныя Г.-к. т., характэрныя для мона- ці поліэтнічнага насельніцтва пэўных ландшафтна-кліматычных зон. Напр., ворыўнае *земляробства* лясных рэгіёнаў Усх. Еўропы мае шмат падобных рыс у беларусаў і іх суседзяў — рускіх, украінцаў, літоўцаў, латышоў, палякаў. Асабліва значным падабенствам Г.-к. т. характарызуюцца тэрыторыі міжэтнічнага пагранічча — *гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны* (Палессе, Падляшша, Верхняе Падняпроўе і Падзвінне, Панямонне), дзе аднолькавасць прыродна-кліматычных умоў і асноўнага спосабу вытворчасці садзейнічала ўзнікненню амаль ідэнтычных прыёмаў апрацоўкі зямлі, прылад працы і інш. элементаў матэрыяльнай культуры — *жылля, ежы,* сродкаў перамяшчэння, *адзення* і інш. У сферы духоўнай культуры падабенства праявілася ў тых звычаях, абрадах, асаблівасцях выяўленчага мастацтва, вераваннях і фальклоры, што найбольш яскрава адлюстроўвалі формы і характар працы і побыту насельніцтва.

У перыяд капіталізму Г.-к. т. папярэдніх часоў паступова разбураюцца і знікаюць, але мноства іх элементаў (пераважна ў сферы сельскай гаспадаркі) захоўваецца і ўваходзіць у склад новых занальных эканам. і культурна-бытавых комплексаў. На прынцыпова новай сацыяльна-эканам. базе пэўныя элементы традыцыйных Г.-к. т. працягваюць існаваць у сельскай мясцовасці і ў эпоху сацыялізму. *І. У. Чаквін.*

**ГАСЦІ́НЕЦ,** бальшак, тракт, упарадкаваны сухапутны шлях з бойкім рухам. Звычайна меў шырокую праезную частку, абмежаваную канавамі і абсаджаную абапал дрэвамі, за канавамі — сцежкі для пешаходаў. Бойкія гандлёвыя тракты — «гасцінцы вялікія» — вядомы з часоў Кіеўскай Русі. На Беларусі гэта найперш участкі стараж. волакаў на шляхах «з варяг у грэкі». Звычайна пракладваліся праз густанаселеныя раёны. Важныя тракты злучалі Полацк з Друцкам і Мінскам, Віцебскам і Смаленскам, з гарадамі Літвы, з Ноўгарадам, Псковам. Шлях уздоўж Друці і Дняпра вёў да Чарнігава і Кіева. Мінск быў звязаны трактамі са Слуцкам, Туравам, Койданавам, Навагрудкам, Гродна. У 13—14 ст. на важных дарогах была наладжана служба дастаўкі карэспандэнцыі — загадаў і распараджэнняў улад, пасылак; пазней яна склалася ў рэгулярную паштовую сувязь. Але прамаезных дарог, пракладзеных на вялікія адлегласці цераз лясы і балоты, у той час было мала. Яны ўзнікалі ў сувязі са значнымі ваеннымі падзеямі («Вітаўтавы», «Баторыевы» і інш. шляхі). Нават важнейшыя гандлёвыя шляхі мелі мноства аб'ездаў, пераправаў, даступных не ва ўсе поры года. З'яўленне артылерыі (15 ст.), рост гандлёва-эканам.



На паштовым **гасцінцы.** Малюнак 19 ст.

сувязей рабілі будаўніцтва і ўпарадкаванне новых Г. жыццёвай патрэбай. Быў палепшаны і выпрамлены стараж. шлях Мінск — Орша — Смаленск. Старыя Г., апынуўшыся ў баку ад новых маршрутаў, прыходзілі ў заняпад, ператвараліся ў звычайныя прасёлкі, а часам зарасталі хмызняком і лесам. Некаторыя Г. прадаўжалі адыгрываць важную ролю ў мясцовым гандлі, што абумовіла росквіт кірмашовага гандлю ў такіх цэнтрах, як Шклоў, Зэльва, Свіслач. Па іх у абход застаў і мытаў часам ішоў паток кантрабандных грузаў. З далучэннем Беларусі да ўсерасійскага рынку і ўзмацненнем культурна-эканам. сувязей Расіі з краінамі Зах. Еўропы будаўніцтва сухапутных шляхоў на Беларусі пашырылася. У 2-й пал. 18 ст. на У Беларусі пракладзены Г. шырынёй да 15 м. Абапал іх высаджваліся дрэвы (да 2 тыс. на 1 вярсту), што стварала характэрныя прыдарожныя краявіды. У канцы 18 ст. пабудаваны новыя Г. з Віцебска на Смаленск, са Слоніма на Лагішын і Пінск, адкуль шлях ішоў на Валынь. Некаторыя Г. (Валынскі, Чарнігаўскі і інш.) мелі абапал праезнай часткі 2 паласы шырынёй 20—25 м для прагону і выпасу жывёлы. У 19 ст. пракладзены ці палепшаны Г. з Вільні на Гродна і Беласток і з Вільні на Мінск, Бабруйск. Пабудаваны і буйныя на той час Маскоўска-Варшаўская і Пецярбургска-Кіеўская (Беларуская) шашы з цвёрдым пакрыццём. Брукаваныя дарогі вядомы на Беларусі з 17 ст. Спачатку гэта былі невялікія ўчасткі шляхоў, што злучалі магнацкія сядзібы з бліжэйшымі Г. Цвёрдае пакрыццё ў век гужавога транспарту мела і адмоўныя бакі: нekаваныя коні не маглі везці груз на вялікія адлегласці, драўляныя колы хутка зношваліся, сані ў зімовы час кепска слізгалі па тонкім снежным покрыве. Буйныя Г. будавалі за кошт казны і земскіх улад з удзелам мясцовага насельніцтва. Сяляне да 30—50 вёрст ад Г. прыпісваліся да пэўнага ўчастка і паводле запатрабавання мясцовых улад павінны былі выдзяляць падводы і работнікаў (шарваркі, гужавая павіннасць). Работы па ўпарадкаванню і будаўніцтву Г. выконваліся звычайна ў веснавы ці летні сезон і лічыліся цяжкай феадальнай павіннасцю. У залежнасці ад загружанасці, упарадкаванасці і прызначэння шляхі ў 17—19 ст. падзяляліся на паштовыя, гандлёвыя (ці ваенна-гандлёвыя) і прасёлачныя. Паштовыя Г. мелі рэгулярную пасажырскую сувязь. Уздоўж іх на адлегласці 17—22 вёрст размяшчаліся станцыі з пастаялым дваром для гасцей, стайняй для коней, карчмой, кузняй, мытніцай і інш. На гандлёвых Г. таксама ўзнікалі пастаялыя двары з карчмамі. Г. адыгралі важную ролю ў эканам. жыцці бел. краю, у міжраённых сувязях і этнакультурным збліжэнні і кансалідацыі народа. З узнікненнем у 2-й пал. 19 ст. чыгуначнага транспарту рух на Г. скараціўся, пачалі пусцець станцыі і пастаялыя двары, занепадала паштовая служба. З'яўленне аўтамабіля павялічыла значэнне сухапутных шляхоў. У наш час назва «Г.» ужываецца пераважна для старых грунтавых дарог. *В. С. Цітоў.*

**ГАСЦІ́НЫ ДВОР,** комплекс збудаванняў, дзе часова пражывалі і гандлявалі купцы і захоўваліся іх тавары. Уключаў *гасціны дом,* гандлёвыя і складскія збудаванні, *важніцы,* мерніцы. Пашыраны ў 14—19 ст. у вялікіх гарадах. Манументальны комплекс Г. д. існаваў у 17 ст. ў Віцебску. У 17—18 ст. на аснове Г. д. створаны гандлёвыя рады, якія мелі толькі гандлёвыя і складскія памяшканні, часта злучаліся з ратушамі. Драўляныя Г. д. з 2-паярховых крам, што стваралі прамавугольны ў плане комплекс, быў у 18 — пач. 19 ст. ў Тураве (Жыткавіцкі р-н). *Ю. А. Якімовіч.*

**ГАСЦІ́НЫ ДОМ,** збудаванне для часовага пражывання прыезджых купцоў (гасцей). Вядомы з 14 ст. Будавалі на гандлёвых плошчах гарадоў (Полацк, Гродна, Орша, Мінск), буйных мястэчак (Грэск Слуцкага, Крывічы Мядзельскага р-наў), у манастырах (Слуцкі Трайчанскі), буйных фальварках (Лахва Лунінецкага р-на). Планіроўкай і кампазіцыяй нагадвалі *корчмы* і *аўстэрыі.* Будавалі іх пераважна з дрэва. Г. д. уключалі жылыя пакоі, гасціныя, каморы, сенцы і інш. памяшканні. На гандлёвай плошчы гарадоў уваходзілі ў склад *гасціных двароў.* *Ю. А. Якімовіч.*



**Гаць.** Вёска Шапчыцы Рагачоўскага ўезда. 1903.

**ГАЎСМАН** Міхаіл Антонавіч (1817—89), беларускі гісторык, краязнавец. Скончыў Мазырскую гімназію (1834). Працаваў у канцылярыі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу (1841—63). У 1863 за ўдзел у рэвалюцыйнай арганізацыі высланы ў Вільню, потым у Валагодскую губ. У 1867 паводле царск. маніфеста яму дазволілі жыць у Варшаве. Калекцыяніраваў прадметы старажытнасці, археалагічныя раскопак, манеты, пячаткі, медалі, матэрыялы побыту беларусаў. У 1889 у Мінску арганізаваў выстаўку археалагічных матэрыялаў, знойдзеных на Беларусі. У «Минских губернских ведомостях» у 1877—78 надрукаваў гісторыка-краязнаўчыя нарысы пра Тураў, Навагрудак, Заслаўе, Узду, Слуцк, Мар'іну Горку. *А. Ю. Лозка.*

**ГАФТ** (польск. haft вышываны ўзор, вышыўка па контуры ад ням. haften прафастрыгаваць), 1) ручная ці машынная *вышыўка* каштоўным матэрыялам: каляровымі шаўковымі, залатымі, сярэбранымі ніткамі, жэмчугам, камянямі. Вышыўка з выкарыстаннем металічных бляшак у аздобе галаўных убораў і адзення вядома з ранняга сярэднявечча, з 19 ст. ўжываліся металічныя мішурныя ніткі розных відаў, бісер. Фонам служыў шоўк, аксаміт, парча і інш. тканіны. У 16—18 ст. на Беларусі Г. аздаблялі літургічнае і свецкае адзенне, дэкаратыўныя тканіны (у Дзярж. музеі БССР і Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР зберагаюцца выкананыя мясцовымі вышывальшчыцамі гафтаваныя тканіны 18—19 ст.). Ужываліся разнастайныя тэхнічныя прыёмы — гладзь, высокарэльефнае шыццё «па карце», «у прыкрэп». Вышыўка Г. падпарадкоўвалася агульнаеўрапейскім мастацкім кірункам, у арнаменце пераважалі стылізаваныя раслінныя матывы. 2) Г а ф т а в а н н е, г а п т о ў к а — народная вышыўка разнастайнымі відамі ажурных швоў (гл. *Сакаленне).* 3) Машынная вышыўка белай ажурнай гладдзю па бавоўнянай белай тканіне. Сучасная мастацкая прамысловасць выпрабляе гафтаваныя тканіны, тасьму для аздобы жаночага адзення, пасцельную бялізну. *В. Я. Фадзеева.*

**ГАЦЬ,** г р э б л я, дарожнае збудаванне, шлях, пракладзены ў нізкім, балоцістым месцы. Аснову працейшай Г. складаў насціл з галля. Пры больш грунтоўным будаўніцтве галлё і хмызняк клалі вязанкамі (фашынамі), забівалі каламі і прысыпалі зямлёю; пабапал капалі канавы, якія выконвалі меліярацыйную ролю. Падножжа схілаў Г. нярэдка ўмацоўвалі плятнём, абкладвалі дзёрнам. Пры будаўніцтве выкарыстоўвалі і бярвенне; з гэтай мэтай на балоцісты грунт удоўж шляху

клалі тоўстыя лігары, а наверх упоперак — суцэльным насцілам больш тонкі кругляк ці брусы (дылі). Кожнае бервяно насцілу замацоўвалі калкамі праз адтуліну, выдзеўбаную долатам. Нярэдка паверх насцілу з бярвення клалі хмызняк, прысыпалі яго зямлёю. На балоцістых мясцінах Г. будавалі зімой; на дрыгвяністых балотах замест Г. ўзводзілі масты на па́лях, што ўзвышаліся на 20—50 см над балотам. Г. адыгрывалі важную ролю ў гаспадарчым жыцці і культурна-эканам. зносінах паміж населенымі пунктамі і рэгіёнамі. У сярэдзіне 19 ст. ў Мінскай губ. толькі на паштовых і ваенна-гандлёвых дарогах (даўжыня іх складала 3912 вёрст, ці 4146 км) налічвалася 420 мастоў і 1522 Г. На Палессі гэтыя паказчыкі былі ўдвая большыя; па неабсяжных балотах Г. цягнуліся часам на дзесяткі вёрст. Такія Г. злучалі, у прыватнасці, Азяраны з Тонежам, Азяраны з Дзякавічамі (Мазырскі пав.), Здзітаў з Хомскам і з Драгічынам (Брэсцкі пав.) і інш. Вясной многія Г. затапляліся і размываліся, кожны раз іх даводзілася ўзнаўляць. Язда па Г. была рызыкоўнай. З усталяваннем індустрыяльных форм дарожнага будаўніцтва і паўсюдлай меліярацыяй Г. страцілі практычнае значэнне.

*В. С. Цітоў.*

**ГБА́ЛА,** прыстасаванне для гнуцця дуг, палазоў, абадоў для колаў. Лакальныя назвы баба, бгала. Уяўляла шаблон па форме дугі ці полаза, высечаны ў калодзе або зроблены на сцяне пабудовы (баба). Для гнуцця абадоў выкарыстоўвалі звычайна круглую калоду з жалезным круком, вертыкальна ўкапаную ў зямлю. Падрыхтаваныя для гнуцця матэрыял папярэдне распарвалі ў хатніх печах, лазнях ці спецыяльных нарнях.

*В. С. Цітоў.*

**ГВАНЬІ́НІ** Аляксандр (1534, г. Верона, Італія — 1614), польскі гісторык. З 1550-х г. служыў ротмістрам у войску Вял. кн. Літоўскага. Удзельнік Лівонскай вайны 1558—83, камендант Віцебска. Выдаў «Хроніку Еўрапейскай Сарматыі» на лацінскай (1578, 1581) і польскай (1611) мовах, у ёй многа звестак па гісторыі і геаграфіі Вял. кн. Літоўскага, апісаны гарады і крэпасці Беларусі. Ёсць матэрыялы па матэрыяльнай і духоўнай культуры, звычаях і абрадах насельніцтва Беларусі, гал. чынам Верхняга Падняпроўя. Тэкст хронікі запазычаны з «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага.

*Літ.:* Витебская старина/ Сост. А. П. Сапунов. Т. 4. Витебск, 1885; Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. *І. У. Чаквін.*

**ГІЛЬТЭБРА́НТ** Пётр Андрэявіч [26.4 (8.5).1840, в. Пер'і, Касімаўскі р-н Разанскай вобл.— 29.11 (12.12).1905], рускі буржуазны археограф, этнограф, фалькларыст і гісторык. Вучыўся ў Маскоўскім ун-це (1861—62). Працаваў у пецярбургскай газеце «Голос», з 1865 памочнік архіварыуса Віленскага цэнтральнага архіва старадж. актавых кніг, загадчык аддзела рукапісаў Віленскай публічнай бібліятэкі, з 1871 у Археаграфічнай камісіі ў Пецярбургу, з 1884 у сінадальнай друкарні, з 1897 у Міністэрстве нар. асветы. У «Виленском вестнике» і «Литовских епархиальных ведомостях» змяшчаў (пад крыптанімамі П. А., П. Г., П. Г-ндт) артыкулы і рэцэнзіі па нар. творчасці, музейнай і бібліятэчнай справе, археалогіі, прасякнутыя духам шавінізму. У 1866 Паўн.-Зах. аддзел Рускага геаграфічнага таварыства перадаў Г. калекцыю фальклорна-этнагр. матэрыялаў, сабраных навучэнцамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Частку з іх (300 песень, 151 прыказку і 93 загадкі) ён выдаў асобным зборнікам («Зборнік помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі», вып. 1, 1866). Шавінізм Г. асабліва выявіўся ў прадмове да зборніка, для якога ён тэндэнцыйна, па-вульгарызатарску адбіраў матэрыял. Побач з сапраўды нар. бел. песнямі змешчаны штучныя, псеўдафальклорныя творы казённа-патрыятычнага зместу і вершы літаратурнага паходжання. У 1867—1904 рэдагаваў асобныя тамы «Археаграфічнага зборніка дакументаў...», удзельнічаў у падрыхтоўцы некаторых тамоў зборніка «Руская гістарычная бібліятэка». Арганізаваў шэраг экспедыцый па Беларусі для выяўлення рукапісных матэрыялаў і рэдкіх кніг. Абследаваў нясвіжскі архіў Радзівілаў, дзе знайшоў урывак Слуцкага летапісу 16 ст. У 1869 упершыню надрукаваў са сваімі каментарыямі Тураўскае евангелле. Бел. фалькларныя матэрыял, які Г. збіраўся выдаць у 2-м вып. «Зборніка помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі», зберагаецца ў Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына (Ленінград).

*Літ.:* Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 140—142; Гілевіч Н. С. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970. С. 37—38; Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

*І. К. Цішчанка.*



**Гбала** для гнуцця дуг. Лагойск.



**Гбала** для гнуцця дуг і палазоў. Вёска Прусы Старадарожскага раёна.



**Гбала** для гнуцця абадоў. Вёска Прусы Старадарожскага раёна.

**ГІСТАРЫ́ЧНАЯ ШКО́ЛА** ў фалькларыстыцы, адзін з пашыраных кірункаў рускай фалькларыстыкі канца 19 — пач. 20 ст. Яе тэарэтычныя асновы сфармуляваны У. Ф. Мілерам у «Нарысах рускай народнай славеснасці» (т. 1, 1897), развіты і дапоўнены ў працах М. Н. Сперанскага, С. К. Шамбінага, Б. М. Сакалова. У адрозненне ад *міфалагічнай школы* і міграцыйнай тэорыі (тэорыя запазычвання, або вандроўных сюжэтаў) прадстаўнікі Г. ш. імкнуліся растлумачыць фальклор, апіраючыся на гісторыю, пазнаць побыт народа, суаднесці факты, падзеі, імёны нар. паэзіі з рэальнымі, з тымі, што мелі месца ў мінулым. У рэканструкцыі эпічных цыклаў яны ішлі ад твораў позняга паходжання да больш ранніх, старажытных. У былінах і гіст. песнях прыхільнікі Г. ш. бачылі фрагменты своеасаблівага вуснага летапісу, несупадзенні гіст. падзей і зместу твораў тлумачылі скажэннямі тэксту вусным пераказам у выніку бытавання ў сялянскім асяроддзі. Вялікае значэнне надавалі індывідуальнаму пачатку ў фальклоры, але ў некаторых выпадках перабольшвалі, абсалютызавалі яго. Недаацэньвалі ролю нар. мас у стварэнні духоўных каштоўнасцей, прыпісвалі паходжанне былін выключна княжацка-дружыннаму асяроддзю. Пры многіх метадалагічных недахопах Г. ш. зрабіла прыкметны ўклад у навуку пра фальклор, стварыла гіст. геаграфію рус. эпасу, сабрала і абагульніла значны матэрыял. Школа карысталася міжнар. аўтарытэтам і зрабіла ўплыў на вучоных шэрагу краін. Як кірунак Г. ш. распалася ў сярэдзіне 1920-х г. Асобныя яе прадстаўнікі ў 20—30-я г. ўнеслі ў яе метад сацыяльны пачатак. Аб'ектыўная ацэнка дзейнасці Г. ш. зроблена ў 1960-я г. У зборніках і даследаваннях, выдадзеных прадстаўнікамі Г. ш. (М. Я. Анучкоў, А. В. Маркаў, А. Дз. Грыгор'еў, М. С. Ціхаміраў, У. Ф. Мілер, браты Б. М. і Ю. М. Сакаловы) ёсць блізкія да беларускіх варыянты і паралелі эпічных твораў, пераважна казкі і гіст. песні, якія ў розны час былі запісаны на Беларусі (пазней сабраны ў кн. «Беларускі эпас», 1959).

У бел. фалькларыстыцы гіст. падыход да вуснапаэт. творчасці абазначыўся ў працы І. Храпавіцкага «Погляд на паэзію беларускага народа» (1845). Ідэі Г. ш. падзялялі М. Янчук і Я. Карскі. *А. С. Ліс.*

**ГІСТАРЫЯГРА́ФІЯ ЭТНАГРА́ФІІ.** Этнаграфія як асобная дысцыпліна сфарміравалася к сярэдзіне 19 ст. Да гэтага звесткі пра этнічную гісторыю беларусаў, іх побыт і культуру назапашваліся многія стагоддзі ў розных гіст. крыніцах, летапісах, запісах падарожнікаў, мемуарах, актавых дакументах, інвентарах, рэвізіях, апісаннях і інш. дакументах эпохі феадалізму. Першыя пісьмовыя этнагр. звесткі пра ўсх.-слав. плямёны, што жылі на тэр. Беларусі, вядомы з «Аповесці мінулых гадоў», дзе ўпершыню закладзена канцэпцыя адзінства паходжання і паказана геаграфія рассялення ўсх. славян. Аналагічныя звесткі пра іх рассяленне ёсць у Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім летапісах. У 14—16 ст. — час фарміравання бел. народнасці — летапісы і хронікі ўжо адлюстравалі гістарычную, а ў асобных выпадках і этнічную сітуацыю Беларусі таго часу (Хроніка Быхаўца, «Баркулабаўскі летапіс», «Хроніка горада Магілёва»). Да 16 ст. адносіцца і з'яўленне «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» (1582) Мацея Стрыйкоўскага — гісторыка і паэта, якога цікавілі разнастайныя звесткі па стараж. і сучаснай яму гісторыі Польшчы, Літвы, Русі. Даследуючы асаблівасці мовы і культуры ўсх.-слав. насельніцтва Вял. кн. Літоўскага (беларусы і ўкраінцы), Стрыйкоўскі вылучаў на этнавызначальныя прыкметы, якімі лічыў мову, матэрыяльную і духоўную культуру («убранне і звычай»).

Са шматлікіх запісак і апісанняў падарожнікаў і паслоў, шлях якіх пралягаў праз Беларусь, звесткамі пра побыт і культуру беларусаў вылучаюцца «Запіскі аб маскоўскіх справах» (Спб., 1908, першая публікацыя 1549, Вена) пасла Рымскай імперыі З. Герберштэйна. Каштоўныя звесткі пра побыт беларусаў Заслаўя, Радашковіч, Дуброўны і іх ваколіц пададзены ў кнізе Я. Ласіцкага «Пра рэлігіі, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў, татараў. З прац розных пісьменнікаў...» (1582, Спір, Германія, на лацінскай мове). Польскі гісторык, бібліёграф, этнограф Ласіцкі каля 30 год працаваў настаўнікам дзяцей велікакняжацкага падскарбія і мінскага кашталяна Яна Глябовіча, палац якога быў у Заслаўі. У гэтай працы ёсць апісанні вераванняў, сямейных абрадаў, асобныя звесткі пра адзенне і ежу беларусаў, робяцца вывады пра бытаванне ў той час язычніцкіх абрадаў і вераванняў. Ласіцкі з пазіцый каталіцызму адкрыта варожа ставіўся да праваслаўнага духавенства. С. Рысінскі, які працаваў у Дзяляцічах і Любчы, склаў першы зборнік бел. прымавак і прыказак 16 — пач. 17 ст. Ён запісваў фальклорныя творы, збіраў тапанімічныя звесткі, лічыў іх каштоўнай гіст. крыніцай. Перыяд знаходжання Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай не даў колькі-небудзь каштоўных прац пра побыт і культуру беларусаў таго часу, за выключэннем «Гісторыі Расійскай» В. М. Тацішчава. Яму належыць заслуга ў распрацоўцы метаду анкетнага збору матэрыялаў. У разасланых ім у 1734 і 1737 анкетах (у тым ліку на Беларусь) былі пытанні пра побыт насельніцтва. Важнай крыніцай для даследавання побыту і культуры насельніцтва Беларусі (пераважна пануючых класаў) з'яўляюцца інвентары і іншыя афіцыйныя дакументы. Частка іх апублікавана ў дарэвалюцыйны і сав. час, аднак публікацыі не вычэрпваюць багацця матэрыялаў, што захоўваюцца ў архівах СССР і за мяжой.

Новы этап назапашвання этнагр. ведаў пачаўся пасля далучэння Беларусі да Расіі, калі да вывучэння побыту і культуры беларусаў звярнуліся рускія даследчыкі. У канцы 18— пач. 19 ст. ўзнік рамантызм як плынь у ідэйна-паліт. барацьбе, мастацкай творчасці і грамадскіх навуках. Для многіх славянскіх краін гэта быў час нацыянальна-вызваленчай барацьбы. На гэтай глебе ў грамадазнаўстве склалася новая дысцыпліна — славяназнаўства, што дало моцны штуршок да вывучэння этнагенезу і стараж. гісторыі слав. народаў. Ідэямі слав. адзінства прасякнуты працы большасці даследчыкаў розных краін — Я. Калара, П. Шафарыка, В. М. Бадзянскага, І. М. Снегірова, З. Я. Даленгі-Хадакоўскага, Л. Штура, В. С. Караджыча і многіх іншых. Іх цікавілі і пытанні беларусазнаўства. Зварот да вывучэння побыту і культуры простага люду тлумачыўся і абвастрэннем сялянскага пытання, барацьбы з прыгонніцтвам. На Беларусі пабывалі экспедыцыі І. І. Ляпёхіна і В. М. Севергіна. Некаторыя бытавыя звесткі пра Беларусь змешчаны ў матэрыялах генеральнага межавання (1786—1800). Найбольш значная работа таго часу па этнаграфіі Беларусі — «Апісанне Крычаўскага графства...», складзенае ў 1786 бел. краязнаўцам А. К. Меерам. З пач. 19 ст. з'яўляюцца асобныя спец. працы па этнаграфіі беларусаў (арт. «Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні, Барысаўскім павеце...» І. І. Шыдлоўскага, 1819). Пазней даследаванні праводзілі Расійская АН, Маскоўскае т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх («Рускія простанародныя святы і прымхі» Снегірова, вып. 1—4, 1837—39), туртох М. П. Румянцава. Даволі поўна духоўная культура беларусаў пададзена ў зборы песень і прыпевак «Беларускі архіў» П. В. Кірэеўскага.

Актыўнае збіранне этнагр. матэрыялаў на Беларусі вяло Рускае геагр. т-ва (РГТ), заснаванае ў Пецярбургу ў 1845. Этнагр. аддзяленне РГТ распрацавала ў 1847—49 і разаслала па ўсёй краіне, у т. л. ў бел. губерні, праграму. Частка атрыманых матэрыялаў надрукавана ў першых трох выпусках «Этнаграфічнага зборніка» (Спб., 1853—58). Гэта артыкул І. Юркевіча «Острынскі прыход Віленскай губерні Лідскага павета» (вып. 1), звод матэрыялаў, дасланых з Віцебскай губ. («Быт беларускіх сялян», вып. 2), у якім асноўнае месца займаюць апісанні, прысланыя вольнаадпушчаным селянінам М. Анімеле, праца А.-Г. К. Кіркора «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (вып. 3) і «Нататкі пра заходнюю частку Гродзенскай губерні» Куклінскага (вып. 4). Акрамя этнагр. прац, што з'явіліся ў адказ на праграму

Рускага геагр. т-ва, напярэдадні адмены прыгону надрукаваны нарысы П. М. Шпілеўскага «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» (час. «Современник», 1853—55) і «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» (час. «Пантеон», 1853—56), праца М. В. Без-Карніловіча «Гістарычныя звесткі аб прыкметных мясцінах у Беларусі з далучэннем іншых звестак, якія да яе ж адносяцца» (Спб., 1855). У рэцэнзіях на кнігу Без-Карніловіча і нарысы Шпілеўскага М. Г. Чарнышэўскі адзначаў цяжкае сацыяльнае становішча бел. сялянства. Каля 20 артыкулаў па этнаграфіі беларусаў апублікавана ў 1-й пал. 19 ст. ў перыядычным друку Пецярбурга, Масквы, Кіева, у мясцовай прэсе. Важныя звесткі па бел. этнаграфіі таго перыяду пакінулі і польскія вучоныя.

З глыбокай павагай да беларусаў пра іх побыт пісалі ў 1-й пал. 19 ст. А. Міцкевіч, Даленга-Ходакоўскі, Я. Чачот, Р. С. Зянькевіч, У. Сыракомля, Р. А. Падбярэскі і інш. пісьменнікі і этнографы. У 1840—50-я г. на польскай мове з'явіліся каштоўныя этнагр. працы Я. П. Тышкевіча, Ю. Крашэўскага, Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага і інш. Кансерватыўныя погляды выказваў у сваіх працах польскі этнограф Л. Галамбёўскі. Аднак і ў яго публікацыях ёсць вартыя ўвагі этнагр. замалёўкі, запісы фальклорных твораў. У 1-й пал. 19 ст. фарміруюцца найважнейшыя прынцыпы бел. этнаграфіі, яе навуковыя кірункі. Аднак этнагр. працы таго часу мелі пераважна агульнапазнавальны характар. Звесткі пра побыт народа ў асноўным друкаваліся ў гісторыка-этнагр. і публіцыстычных нарысах.

Паліт. падзеі 1860-х г., асабліва паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве 1863—64, актывізавалі этнагр. вывучэнне Беларусі. Перад афіцыйнай навукай была пастаўлена задача вызначэння этнагр. межаў і складу насельніцтва Беларусі паводле нацыянальных прыкмет. Асноўная работа выконвалася Рускім геагр. т-вам [«Атлас» чл. РГТ Р. Ф. Эркерта з уступным арт. «Погляд на гісторыю і этнаграфію заходніх губерняў Расіі», 1864, «Атлас народанасельніцтва Заходне-Рускага краю паводле веравызнанняў» А. Ф. Рыціха, 1863; «Карта (Царства Польскага) з нанясеннем праваслаўных цэркваў і сельскіх прыходаў Люблінскай губерні, а таксама раскольніцкіх малельняў і вёсак у Аўгустоўскай губерні» М. Ф. Марковіча, 1864]. Гэтыя карты не адлюстроўвалі рэальнага становішча: для вызначэння этнагр. межаў беларусаў бралася веравызнанне, таму ўсе беларусы-каталікі далучаліся аўтарамі да палякаў.

Значную ролю ў этнагр. вывучэнні Беларусі адыграў створаны ў 1867 у Вільні Паўн.-Зах. аддзел РГТ (функцыяніраваў да 1875 і ў 1910—14). Распрацаваныя і разасланыя ім па ўсёй Беларусі праграмы садзейнічалі ўключэнню ў этнагр. работу мясцовай інтэлігенцыі (паступіла 642 апісанні побыту, звычаяў, абрадаў; зберагаюцца ў архіве Вільнюскага ун-та). Для актывізацыі мясцовых сіл і вывучэння Беларусі шмат зрабілі Расійская АН і Т-ва аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і антрапалогіі, створанае ў 1864 пры Маскоўскім ун-це. Найбольш значная работа праводзілася Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці АН. Вакол яго і рускіх навуковых т-ваў гуртаваліся мясцовыя даследчыкі побыту і культуры бел. народа. Актыўнымі супрацоўнікамі іх былі бел. этнографы М. А. Дзмітрыеў, Ю. Ф. Крачкоўскі, А. М. Семянтоўскі, В. Г. Сакалоў, П. В. Шэйн, Е. Р. Раманаў, М. В. Доўнар-Запольскі, М. А. Янчук і многія інш. Выхад іх на арэну навуковай дзейнасці абумоўлены працэсамі фарміравання бел. нацыі, ростам нацыянальна-вызваленчага руху. З дэмакратычных пазіцый, з вялікай сімпатыяй падыходзілі да вывучэння побыту народа Крачкоўскі, Семянтоўскі, Г. Я. Васільева, М. Рубяроўскі і інш. Адным з першых даследчыкаў Беларусі быў мясцовы настаўнік І. І. Насовіч. У 1852—69 Расійская АН надрукавала некалькі яго зборнікаў прыказак, прымавак і загадак, а ў 1873 РГТ у сваіх «Запісках» апублікавала «Беларускія песні, сабраныя І. І. Насовічам». Найважнейшая праца Насовіча — «Слоўнік беларускай мовы» (Спб., 1870) — змяшчае вялікую колькасць этнагр. звестак. Багатымі этнагр. звесткамі вызначаюцца працы Дзмітрыева, Крачкоўскага, Семянтоўскага. З сярэдзіны 1860-х г. дзейнасць па збіранню фальклорна-этнагр. матэрыялаў на Беларусі разгарнуў Шэйн. Першым вынікам яго працы быў зборнік «Беларускія песні» (1873) — самы грунтоўны на той час. Каштоўныя матэрыялы пра побыт беларусаў трапілі ў шматтомнае выданне «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба» (Спб., 1861—63). Сярод тагачасных даследчыкаў Беларусі вылучаецца група этнографаў, працы якіх напісаны з вялікадзяржаўных пазіцый (М. В. Каяловіч, П. А. Бяссонаў, П. А. Гільтэбрант). З ліберальных пазіцый выступалі польскія этнографы Э. Івашкевіч, З. Глогер, Ф. Сурын, В. Навіцкі і інш.

У 1880—90-я г. з'явіліся фундаментальныя этнагр. працы Раманава, М. Я. Нікіфароўскага, У. М. Дабравольскага, Доўнар-Запольскага, А. Я. Багдановіча, Янчука і інш. У адпаведнасці з праграмай, распрацаванай А. М. Пыпіным, збіраліся і вывучаліся пераважна вусна-паэтычная творчасць, вераванні, абрады, юрыдычныя звычаі народа. Падрыхтаваны багатыя фальклорна-этнагр. зборнікі Раманава («Беларускі зборнік», вып. 1—9, 1886—1912), М. Федароўскага («Люд беларускі», т. 1—3, 1897—1903), Шэйна [«Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», т. 1 (ч. 1—2) — 3, 1887—1902], Нікіфароўскага («Нарысы Віцебскай Беларусі», ч. 1—8, 1892—99). У 1890-я г. і ў пач. 20 ст. з'яўляюцца этнагр. даследаванні па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларусаў. Найбуйнейшыя з іх — працы Нікіфароўскага «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку...» (1895), А. М. Харузіна «Славянскае жыллё ў Паўночна-Заходнім краі» (1907), А. К. Сержпутоўскага «Земляробчыя прылады Беларускага Палесся» (1910), І. А. Сербава «Беларусы-сакуны» (1915). Сямейны побыт паказаны ў працах Доўнар-Запольскага, Раманава, Нікіфароўскага. Шматлікія працы дарэвалюцыйных этнографаў прысвечаны духоўнай культуры народа, яго вераванням і абрадам. Абагульняльны характар мелі даследаванні Багдановіча «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1895) і Нікіфароўскага «Нячысцікі. Збор простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу» (1907). Каштоўныя апісанні матэрыяльнай і духоўнай культуры пакінулі Дабравольскі, П. П. Дземідовіч, Я. А. Ляцкі, С. І. Карскі, З. Ф. Радчанка, Дз. Г. Булгакоўскі, Ф. Вярэнька, польскія этнографы Федароўскі, О. Кольберг, Я. Карловіч і інш. Я. Ф. Карскі ў 3-томным выданні «Беларусы» (1903—22) упершыню даў усебаковы разгляд развіцця бел. этнасу ад старажытных часоў да 1920-х г. Усталяваўся эвалюцыйны кірунак у этнаграфіі, на новы ўзровень узнялася методыка збірання, вывучэння і публікацыі матэрыялаў. З узмацненнем класавай барацьбы ў эпоху імперыялізму этнаграфія набыла востры паліт. характар. Раманаў, Я. Ф. Карскі, Сержпутоўскі, Янчук і інш. паказвалі адзінства гіст. лёсу ўсх. славян, сталі за сацыяльнае і нацыянальнае раўнапраўе бел. народа. Значная ўвага аддавалася пытанням этнагенезу, этнічнага складу насельніцтва.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў складзе Расійскай АН адноўлена дзейнасць Камісіі па вывучэнню племяннога складу насельніцтва Расіі і сумежных краін (пазней — Камісія па вывучэнню племяннога складу насельніцтва СССР). Этнагр. аддзяленні створаны ў Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры пры Ленінградскім геагр. ін-це (пазней зліты з геагр. факультэтам Ленінградскага ун-та) і Маскоўскім ун-це, пры Асацыяцыі ўсходазнаўства. Гэтыя ўстановы, асабліва Ленінградскі ун-т, рыхтавалі кваліфікаваныя кадры этнографаў і для Беларусі. Аднавілі работу Геагр. т-ва (з аддзяленнем этнаграфіі) і Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. Пашырылася музейная работа ў галіне этнаграфіі. Вялікую работу па вывучэнню побыту і культуры народаў СССР разгарнулі Музей антрапалогіі і этнаграфіі, этнагр. аддзел Рускага музея,

на базе якога пазней створаны Дзярж. музей этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе. У Маскве на базе Румянцаўскага і Дашкаўскага збораў і экспанатаў Усерасійскай с.-г. і саматужна-прамысловай выстаўкі 1923 узнік Цэнтр. музей народазнаўства (1924). У гэтых музеях захоўваецца значная колькасць бел. экспанатаў. Этнагр. дзейнасць цэнтр. устаноў адыграла вялікую ролю ў вырашэнні практычных задач нацыянальнага раянавання народаў СССР і вызначэння канкрэтных форм дзярж. будаўніцтва, гаспадарчага і культурнага развіцця нацыянальнасцей і этнічных груп насельніцтва СССР.

У першыя паслярэвалюцыйныя гады пытаннямі бел. этнаграфіі займаліся навуковыя ўстановы Масквы і Ленінграда. 13.10.1918 у Петраградзе створана Беларускае вольна-эканам. т-ва, у рабоце якога ўдзельнічаў Сержпутоўскі. Ён горача падтрымаў ідэю стварэння Беларускай ССР і клапаціўся аб правільным вызначэнні яе межаў, лічыў, што навуковым крытэрыем пры вызначэні тэрыторыі беларусаў павінна быць не рэлігія, а мова і сукупнасць бытавых рыс насельніцтва. У тым жа 1918 у Маскве створаны Бел. нар. ун-т, дзе лекцыі па этнаграфіі Беларусі чыталі Дз. М. Анучын, Дабравольскі, У. І. Пічэта і інш. На аснове прачытаных лекцый у 1918—20 выдадзены «Курс беларусазнаўства». З дзевяці артыкулаў гэтай працы, што асвятляюць розныя бакі этнічнай гісторыі, гаспадаркі і побыту беларусаў, 4 часткова або цалкам прысвечаны пытанням этнаграфіі, асабліва артыкулы Анучына, Янчука, Пічэты. У іх на падставе разгляду паходжання, этнічнай гісторыі і асаблівасцей побыту і культуры даказвалася права беларусаў на нацыянальнае развіццё ў складзе Сав. дзяржавы, разам з рускім і ўкраінскім народамі. Для таго часу гэтыя працы былі актуальнымі і ў паліт. адносінах. Яны адыгралі пэўную ролю ў вырашэнні пытанняў нацыянальнага развіцця бел. этнасу.

У процілегласць пазітыўным поглядам на пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў буржуазныя вучоныя, асабліва бел. нацыяналісты, імкнуцца абгрунтаваць розныя тэорыі, разлічаныя на адрыў беларусаў ад братніх рускага і ўкраінскага народаў. Часопіс «Крывіч», што выдаваўся ў 20-я г. ў Коўне В. Ластоўскім, прапагандаваў яго крыўска-волатаўскую «тэорыю» паходжання беларусаў. Ластоўскі беспадстаўна сцвярджаў, нібыта яшчэ да 9 ст. існавала самастойная Крывіцкая дзяржава, а беларусы паходзяць ад міфічных волатаў (велетаў, люцічаў). Крыўска-волатаўскую «тэорыю» па-свойму трактавалі буржуазныя нацыяналісты А. Цвікевіч, Я. Станкевіч, К. Езавітаў і інш.

У 1920 у Мінску пры Наркамаце асветы БССР быў створаны Акадэмічны цэнтр. Я. Ф. Карскі, Дабравольскі, Янчук, Сержпутоўскі, Сербаў прынялі ўдзел у арганізацыі навуковых і вышэйшых навучальных устаноў. 10.2. 1921 заснавана Навукова-тэрміналагічная камісія, якая ў пач. 1922 рэарганізавана ў Ін-т бел. культуры (Інбелкульт). Большасць этнографаў спачатку ўваходзіла ў прыродазнаўча-геагр. секцыю Інбелкульта, а з 1924 — у гісторыка-археалагічную. У 1925 у складзе Інбелкульта створана самастойная этнагр. секцыя (з 1927 кафедра этнаграфіі). Шырокае развіццё атрымала *краязнаўства*. Створанае ў 1924 Цэнтр. бюро краязнаўства выдавала час. «Наш край» (з 1925, у 1930—33 «Савецкая краіна»), дзе друкаваліся этнагр. матэрыялы з розных месцаў Беларусі. Значную ролю ў развіцці краязнаўчага руху адыгралі Інбелкульт, з 1929 Акадэмія навук БССР, заснаваная на яго базе. Важнай крыніцай этнагр. вывучэння Беларусі служылі музейныя калекцыі (у БССР працавала больш за 20 музеяў), экспедыцыйныя матэрыялы (перад вайной у АН БССР захоўвалася каля 70 тыс. адзінак этнагр. апісанняў і фальклорных тэкстаў, да 10 тыс. здымкаў і 2 тыс. этнагр. экспанатаў). Побач са збіральніцкай вялася даследчая работа. З'явіліся працы Сербава «Вічынскія паляне» з падзагалоўкам «Этнаграфічны нарыс Беларускага Палесся» (1928), Сержпутоўскага «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» (1930), шэраг артыкулаў З. Бядулі, працы М. М. Нікольскага «Міфалогія і абраднасць валачобных песень» (1931), «Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваннях беларускага сялянства» (1933). Вынікам даследавання Цэнтр. музея народазнаўства (Масква) з'явілася каштоўная праца Н. І. Лебедзевай «Жыллё і гаспадарчыя пабудовы Беларускай ССР» (М., 1929). У Ленінградзе над праблемамі этнаграфіі ўсх.-слав. народаў, у т. л. беларусаў, актыўна працаваў Дз. М. Зяленін [«Рускае (усходнеславянскае) народазнаўства», Берлін; Лейпцыг, 1927, на ням. мове]. Вывучэннем Палесся плённа займаліся польскія этнографы К. Машынскі («Народная культура славян», у 3 кн., 1929—39, 2 выд. 1967—68) і Ч. Пяткевіч («Рэчыцкае Палессе: Этнагр. матэрыялы. Ч. 1. Матэрыяльная культура», Кракаў, 1928; «Духоўная культура Рэчыцкага Палесся», Варшава, 1938) і інш. Беларускі фальклор у Латвіі збіраў С. П. Сахараў, частка яго запісаў апублікавана ім у кн. «Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў» (вып. 1, Рыга, 1940). Напад фашысцкай Германіі на СССР і часовая акупацыя Беларусі прыпынілі этнагр. вывучэнне рэспублікі, прывялі да вялізарных страт этнагр. матэрыялаў. Былі разрабаваны або знішчаны ўсе музеі рэспублікі і архіўныя фонды АН БССР.

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Ін-це гісторыі АН БССР адноўлены сектар этнаграфіі і фальклору. На працягу 1950—51 вывучаўся побыт калгаснай вёскі, у выніку чаго з'явілася праца М. Я. Грынблата і Л. А. Малчанавай «Новыя з'явы ў быце калгаснай вёскі: (Спроба этнаграфічнага вывучэння калгаса «Бальшавік» Хойніцкага р-на Гомельскай вобл.)», апублікаваная ў «Беларускім этнаграфічным зборніку» (1958). З сярэдзіны 50-х г. разгарнулася работа па вывучэнню побыту рабочага класа Беларусі (У. М. Іваноў), побыту бел. сялян у партызанскім краі (А. І. Залескі) і гістарыяграфіі дарэвалюцыйнай этнаграфіі (В. К. Бандарчык). У 1957 у АН БССР створаны Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору з асобным сектарам этнаграфіі, які распачаў работу над манаграфіяй «Беларусы» [скарочаны варыянт яе апублікаваны ў шматтомным выданні Ін-та этнаграфіі АН СССР «Народы свету» («Народы Еўрапейскай часткі СССР», т. 1. М., 1964)].

Вядучай у навуковых даследаваннях бел. этнографаў стала тэма сацыялістычнай перабудовы побыту і культуры. Асобным пытанням сямейнага, грамадскага, вытворчага побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры прысвечаны артыкулы ў навуковых часопісах, зборніках: «Беларускі этнаграфічны зборнік», «Пытанні этнаграфіі Беларусі», «Пытанні беларускай этнаграфіі, фалькларыстыкі і тапанімікі», «Пытанні беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі». Пры ўдзеле этнографаў апублікаваны калектыўныя працы «Будаўніцтва камунізму і сацыяльныя змены ў сялянстве Беларусі» (1966), «Быту і культуры сяла — паўсядзённую ўвагу» (1969), у якіх разглядаюцца пытанні фарміравання новага побыту сельскага насельніцтва рэспублікі. З выкарыстаннем сацыялагічных метадаў і анкетнага абследавання ў 1973—75 групай бел. этнографаў праведзена даследаванне асноўных тэндэнцый у развіцці сучаснай вёскі. Сацыялагічныя метады выкарыстаны і пры вывучэнні гарадскога насельніцтва [«Этнічныя працэсы і лад жыцця (На матэрыялах даследавання насельніцтва гарадоў БССР)», 1980; «Міграцыя насельніцтва ў гарады і этнічныя працэсы», 1985, Г. І. Каспяровіч і інш.].

Значная ўвага ў пасляваенны час аддаецца пытанням паходжання і этнічнай гісторыі бел. народнасці. У 40—50-я г. апублікаваны працы гісторыкаў М. С. Дзяржавіна, Пічэты, Ф. В. Канстанцінава, А. П. П'янкова і інш., якія абгрунтавалі палажэнне, што асноўным фактарам утварэння народнасці з'яўляюцца сацыяльна-эканам. ўмовы. Недахопам іх прац было тое, што яны выводзілі бел. народнасць з першасных усх.-слав. плямён, у той час як непасрэднай папярэдніцай трох усх.-слав. народнасцей была стараж.-руская народнасць. У кнізе «Беларусы» (1968) Грынблат падагульніў асноўныя дасягненні гісторыкаў, філолагаў, антраполагаў, археолагаў і інш. спецыялістаў, якія займаліся гэтай праблемай,

і даў схему перыядызацыі этнічнай гісторыі бел. народнасці.

Прыкметнае ажыўленне ў вывучэнні этнагенезу беларусаў выклікала дыскусія, праведзеная ў 1967—69 на старонках час. «Советская этнография». Дыскусія канстатавала наяўнасць розных пунктаў гледжання на праблему этнагенезу беларусаў і вялася гал. чынам у сувязі з прапанаванай В. В. Сядовым тэорыяй «балцкага субстрату». Сядоў разглядаў балтыйскае насельніцтва як нейкі аднародны маналіт, які быццам бы ўз'ядпаў на сваёй тэрыторыі ўсх.-слав. плямёны, а асаблівасці культуры беларусаў выводзіў з часоў першаснага засялення ўсх.-слав. плямён (да 7—8 ст.). Апаненты Сядова археолаг П. М. Трацякоў, географ-тапаніміст В. А. Жучкевіч, этнографы Грынблат і Г. А. Хабургаеў падвергліі крытыцы яго канцэпцыі. Праблема паходжання і этнічнай гісторыі беларусаў са стараж. часу да нашых дзён даследуецца ў падрыхтаванай Ін-там мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору калектыўнай манаграфіі «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985), дзе прааналізаваны гістарыяграфічныя працы, найважнейшыя фактары ўтварэння бел. этнасу, яго развіцця.

Першая значная праца пасляваеннага часу па матэрыяльнай культуры ўсх. славян — «Усходнеславянскі этнаграфічны зборнік: Нарысы народнай матэрыяльнай культуры рускіх, украінцаў і беларусаў у XIX — пачатку XX ст.» (М., 1956). Вывучэннем матэрыяльнай культуры беларусаў у 50—60-я г. займалася Малчанава («Матэрыяльная культура беларусаў», 1968; «Нарысы матэрыяльнай культуры беларусаў XVI—XVIIIстст.», 1981). Асобныя пытанні матэрыяльнай культуры даследавалі У. С. Гуркоў (паселенні і жыллё), М. Ф. Раманюк (адзенне), І. П. Корзун (ежа). Сумесна з этнографамі Украіны і Малдавіі вялася падрыхтоўка рэгіянальнага «Гісторыка-этнаграфічнага атласа Украіны, Беларусі і Малдавіі», на матэрыяле якога выдадзены манаграфічныя працы «Беларускае народнае жыллё» (1973), «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў» (1974) і «Беларускае народнае адзенне» (1975). Далейшую распрацоўку гісторыка-этнагр. раянавання матэрыяльнай культуры беларусаў праводзіў В. С. Цітоў («Гісторыка-этнаграфічнае раянаванне матэрыяльнай культуры беларусаў. XIX — пачатак XX ст.», 1983, «Гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны ў экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту», 1982). Публікацыі Цітова і калектыўная праца «Помнікі этнаграфіі» (1981) падрыхтаваны ў сувязі са стварэннем Бел. дзярж. музея нар. архітэктуры і побыту. Паралельна вялася праца па вывучэнню промыслаў і рамёстваў. У 1984 апублікавана калектыўная манаграфія «Промыслы і рамёствы Беларусі», якой папярэднічалі манаграфічныя даследаванні асобных промыслаў і рамёстваў — Цітова «Народныя дрэваапрацоўчыя промыслы Беларусі (1917—1941 гг.)» (1976), І. М. Браіма «Рыбалоўства ў Беларусі» (1976), Г. М. Курыловіч «Беларускае народнае ткацтва» (1981), С. А. Мілючэнкава «Беларускае народнае ганчарства» (1984), а ў 1986 г.— кніга С. Ф. Цярохіна «Паляўніцтва ў Беларусі». Рыхтуюцца да друку манаграфіі па вышыўцы, пчалярству і інш.




промыслах і рамёствах Беларусі. Выдадзены альбомы «Беларускае народнае мастацтва» (т. 1, 1951), «Беларускі народны арнамент» (1955), «Слуцкія паясы» (1960) Л. І. Якунінай і «Беларускае народнае адзенне» (1981) Раманюка.

У апошнія гады бел. і ўкраінскімі этнографамі праведзена сумеснае даследаванне Палесся, у якім разглежаны ўсе аспекты матэрыяльнай, духоўнай культуры і сямейнага побыту, а таксама пытанні гістарыяграфіі этнічнай гісторыі і інш. асаблівасці жыццядзейнасці насельніцтва беларуска-ўкраінскага Палесся. Па выніках яго апублікаваны манаграфіі «Грамадскі, сямейны побыт і духоўная культура насельніцтва Палесся» (1987), «Палессе: Матэрыяльная культура» (Кіеў, 1988).

Праблемы сямейнага і грамадскага побыту насельніцтва Беларусі шырока разгледжаны ў калектыўных працах «Змены ў побыце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі» (1976), «Змены ў побыце і культуры гарадскога насельніцтва Беларусі» (1976), даследаваннях Нікольскага «Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці» (1956), Іванова «Нарыс побыту прамысловых рабочых дарэвалюцыйнай Беларусі» (1971) і артыкулах М. Ф. Піліпенкі, Э. Р. Сабаленкі, А. М. Міцкевіча, Г. І. Дулебы, Бандарчыка, В. М. Бялявінай, Браіма.

З гэтай праблематыкай звязана вывучэнне рэлігійных вераванняў, атэізму і сучаснай абраднасці, а таксама народных ведаў (брашуры і артыкулы Іванова, Залескага, Бандарчыка, А. С. Фядосіка, К. П. Кабашнікава, Р. В. Надольскага, Л. І. Мінько, А. М. Камарова, А. М. Міцкевіча, Г. К. Мяраловай і інш.). У 1960 апублікаваны зборнік артыкулаў «Пытанні рэлігіі і атэізму». Мінько даследаваў перажыткі знахарства і іншых забабонаў («Народная медыцына і шкоднасць знахарства», 1962, «Святая» вада», 1965, «Знахарства», 1971, «Забабоны і прыкметы», 1975). Узнікненню і гісторыі сектанцтва на Беларусі, яго шкоднай дзейнасці і барацьбе з ім прысвечаны працы Надольскага, Б. І. Камейшы, С. А. Мышапуда і інш. Атэістычная тэматыка займае значнае месца ў даследаваннях Фядосіка («Антырэлігійныя матывы ў беларускім фальклоры», 1963, «Беларуская народная сатырычная проза», 1969, «Праблемы беларускай народнай сатыры», 1978). Сярод даследаванняў, у якіх закранаюцца пытанні вераванняў і абрадаў беларусаў, праца С. А. Токарава «Рэлігійныя вераванні ўсходне-

славянскіх народаў XIX — пачатку XX ст.» (М.; Л., 1957). Разгляд многіх народных абрадаў, звычаяў і вераванняў дарэвалюцыйнага сялянства даецца ў шматтомным выданні «Беларуская народная творчасць» (Дзярж. прэмія БССР 1986).

Пачатак вывучэння сучаснага стану і прапагандзе новых звычаяў і абрадаў пакладзены брашурай Залескага і Іванова «Новыя звычаі і абрады — у наш быт» (1960). Гэта пытанне разглядаецца ў кнігах Іванова «Жыццё нараджае новыя абрады» (1964) і «Новы час — новае жыццё» (1968), у кнігах «Новыя грамадзянскія абрады і рытуалы» (1978), «У духу народных традыцый» (1981), у працах А. А. Мялешкі «Савецкая сямейная абраднасць Беларусі» (1976), «Сучасныя традыцыі, святы і абрады» (1976), «Сучасныя грамадзянскія абрады і традыцыі» (1985), у артыкулах супрацоўнікаў сектара этнаграфіі ў часопісах і газетах.

Важным аспектам этнагр. навукі з'яўляецца вывучэнне нар. ведаў, назапашаных эмпірычнай практыкай на працягу многіх стагоддзяў у галіне медыцыны, ветэрынарыі, аграноміі, метралогіі і г. д. Ім прысвечаны манаграфіі Мінько «Народная медыцына Беларусі» (1969), Малчанавай «Народная метралогія» (1973), К. У. Скурата «Даўнія беларускія меры: (Лексічны аналіз)» (1974), артыкулы М. М. Дворкіна, І. М. Пёрышкіна, М. Д. Тарэна, А. Х. Шкляра і інш. Вывучае этнаграфія і такую галіну грамадскага побыту, як нар. гульні. У даваенны час гэтаму пытанню быў прысвечаны толькі артыкул З. Бядулі. Пасля вайны апублікаваны зборнік В. Касяровіча «Сто гульняў» (1948) і даследаванне Я. Р. Вількіна «Беларускія народныя гульні» (1969). Дзіцячыя гульні разгледжаны ва ўступным артыкуле Г. А. Барташэвіч да тома «Дзіцячы фальклор» (1972) шматтомнага выдання «Беларуская народная творчасць».

Праблематыка і тэматыка даследаванняў бел. этнографаў, метадалогія і методыка этнагр. працы на Беларусі складваліся ў цеснай сувязі з развіццём этнаграфіі СССР. Гэтаму садзейнічалі агульнасаюзныя і рэгіянальныя каардынацыйныя нарады, асабліва сесіі і канферэнцыі Аддзялення гіст. навук АН СССР, якія з пач. 60-х г. праводзяцца штогод. На іх абмяркоўваюцца вынікі этнагр., антрапалагічнай і археалагічнай працы ў СССР. Амаль на ўсіх нарадах і сесіях бел. этнографы выступалі з дакладамі, паведамленнямі пра вынікі сваіх даследаванняў побыту і культуры бел. народа. У апошнія гады бел. этнографы ўдзельнічалі і ў міжнар. кангрэсах. У 1964 на VII Міжнар. кангрэсе антрапалагічных і этнагр. навук у Маскве з дакладамі выступалі Бандарчык, Грынблат, Мінько, у якіх прааналізавалі асноўныя кірункі і тэндэнцыі ў развіцці бел. этнаграфіі, пытанні этнагенезу беларусаў і народных ведаў. На VIII Міжнар. кангрэсе ў Токіо ў 1968 Малчанава прачытала даклад пра агульнаслав. нацыянальныя рысы ў матэрыяльнай культуры беларусаў. На IX Міжнар. кангрэс у Чыкага (1973) прадстаўлены даклад Бандарчыка і Сабаленкі пра змены ў побыце і культуры сучаснай сельскай сям'і, на X Міжнар. кангрэс у Дэлі (1978) — даклад Бандарчыка, прысвечаны працэсам інтэграцыі, і яго даклад пра развіццё бел. этнасу на XI кангрэс у Канадзе. Бел. этнографы ўдзельнічалі ў рабоце міжнар. з'ездаў славістаў і ў міжнар. канферэнцыях этнолагаў у ЧССР, ПНР, НРБ, Югаславіі. Працы бел. этнографаў публікуюцца ў замежным друку.

*В. К. Бандарчык.*

**ГІСТО́РЫКА-ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ РЭГІЁН**, рэгіён, што вылучаецца на якой-небудзь тэрыторыі паводле комплексу этнакультурных прыкмет: асаблівасцей этнічнай гісторыі, характару рассялення, гаспадарчых заняткаў і прылад працы, нар. архітэктуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, традыцыйнага адзення, фальклору, мясцовых гаворак і інш. Арэальнае (этнаграфічнае) вывучэнне і картаграфаванне разнастайных кампанентаў тэр. Беларусі ў 18—19 ст. дазваляе суаднесці іх на розных таксанамічных узроўнях і вылучыць 6 этнагр. рэгіёнаў: Паўночны *(Паазер'е)*, Усходні *(Падняпроўе)*, Цэнтральны *(Цэнтральная Беларусь)*, Паўночна-Заходні *(Панямонне)*, *Усходняе Палессе* і *Заходняе Палессе*. Унутры кожнага з іх, у сваю чаргу, паводле мясцовых асаблівасцей нар. культуры і побыту вылучаюць больш дробныя адзінкі — лакальныя раёны, або падраёны: у Паўночным — паўн.-ўсх. і паўд.-зах. часткі, ва Усходнім — левабярэжнае, правабярэжнае Падняпроўе і Пасожжа, у Цэнтральным — Бярэзінскі, Слуцка-Нясвіжскі і Мінскі раёны, у Паўночна-Заходнім — левабярэжнае і правабярэжнае Панямонне, ва Усходнім Палессі — Мазыршчына, Тураўшчына, Прыпяцкі раён, у Зах. Палессі — Пінскае Палессе, Загароддзе і Падляшша. Рэгіёны лакалізуюцца ў масівах з блізкімі гіст. і экалагічнымі ўмовамі, пераважна ў басейнах вялікіх рачных сістэм (рэкі служылі сродкамі зносін і вызначалі напрамкі культурна-эканам. сувязей, а таксама стваралі спрыяльныя ўмовы для жыхарства і гаспадарчай дзейнасці). Мясцовая прырода з яе разнастайнымі рэсурсамі і адпаведнымі ўмовамі была жыццёвым асяродзем, арганічна ўваходзіла ў паўсядзённы побыт і ў межах пэўнай сацыяльнай сістэмы ўплывала на спецыялізацыю гаспадарчых заняткаў, *жыллё*, *адзенне*, *ежу*, сродкі зносін. Сацыяльна-эканам. і этнічныя працэсы, што мелі асаблівасці ў розных раёнах Беларусі, з цягам часу накладвалі адбітак на сістэмы земляробства, гаспадарчы побыт, звычаёвае права, мясцовую самасвядомасць, што надавала пэўнаму рэгіёну спецыфічныя рысы. На працягу стагоддзяў межы Г.-э. р. мяняліся, аднак гэта не парушала пераемнасці гіст. традыцый, якія ва ўмовах патрыярхальнага ўкладу выконвалі жыццёва важную камунікатыўную ролю, замяняючы пісьмовую культуру. Этнакультурны комплекс на пагранiччы суседніх рэгіёнаў мае пераходныя рысы, што звязана са складаным характарам размяшчэння шэрагу этнагр. рэалій. Параўнальнае супастаўленне этнагр. матэрыялу з археалагічным, лінгвістычным і фальклорным паказвае іх арэальную ўзаемасувязь і дазваляе меркаваць пра стараж. прыроду рэгіянальных адрозненняў, а таксама сведчыць пра агульныя вытокі і заканамернасці развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. Г.-э. р. адлюстроўваюць варыяцыйнае багацце і разнастайнасць бел. нар. культуры, яе творчыя магчымасці і самадзейны характар.

*В. С. Цітоў.*

**ГЛАДЗЬ**, від *вышыўкі*. Паводле спосабу выканання вылучаюць Г. лікавую і адвольную, 1- і 2-баковую, па суцэльнай і па ажурнай тканіне. Кашулі, фартухі, ручніковыя галаўныя ўборы здаўна вышывалі 2-баковай лікавай прамой і касой Г. (насціланне, высціланне). Арнамент з простых геаметрычных фігур (васьміпялёсткавыя разеткі, зоркі, крыжыкі, ромбы, трохвугольнікі) вышывалі паралельнымі шыўкамі па лініі ўтку, асновы або па дыяганалі. Адзін з традыцыйных прыёмаў вышыўкі — аднабаковая лікавая Г., якой аздаблялі тканіны ў Капыльскім і Клецкім р-нах. Яе вышывалі шчыльнымі гарызантальнымі або вертыкальнымі радкамі, у якіх роўныя па даўжыні шыўкі накладваліся ў шахматным парадку. Для выпшыўкі лікавай Г. выкарыстоўвалі чырвоныя, белыя, чорныя бавоўняныя ніткі. Адвольнай (нялікавай) Г., больш позняй па паходжанню, аздаблялі жаночыя безрукаўкі, хусткі, суконную і аўчынную вопратку, ручнікі, абрусы (у арнаменце пераважалі



Вышыўка лікавай **гладдзю** (фрагмент рукава). Пасёлак Калініна Чачэрскага раёна. 1920-я г.

рознакаляровыя раслінныя ўзоры). У наш час Г. вышываюць сурвэткі, ручнікі, абрусы, навалачкі і інш.

*В. Я. Фадзеева.*

**ГЛЕЙНА,** назва звяна плыта ў басейне Зах. Дзвіны (р. Лучоса, Бобр і інш.). Лакальная назва гуська. На Зах. Дзвіне 4 Г. злучаліся ў *плыт*.

**ГЛО́ГЕР** (Gloger) Зыгмунт (псеўданім Прускі; 3.11.1845, Каменка Падляская, ПНР — 15.8.1910), польскі археолаг, этнограф, гісторык і фалькларыст. Скончыў Варшаўскі ун-т (1867). Арганізатар і першы старшыня краязнаўчага т-ва ў Варшаве. Пісаў пра побыт, вераванні і абрады бел. народа: артыкулы ў час. «Biblioteka Warszawska» («Варшаўская бібліятэка») «Земляробчыя абрады» (1867, т. 2), «Звычаі народа з ваколіц Тыкоціна і Бельска» (1868, т. 1), «Земляробчыя забабоны» (1876, т. 2), «Пчалярскія, паляўнічыя і земляробчыя забабоны» (1876, т. 4), «Метэаралагічныя забабоны люду Панараўя» (1879, т. 1), у штогодніку « Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Збор звестак па айчыннай антрапалогіі») — «Забабоны і ўяўленні наднарвінскага люду пра птушак, паўзуноў і насякомых. Сабраны ў 1865—1875 гадах» і «Вясельныя назвы, выказванні і прадметы, якія ўжываліся на вясельных абрадах люду на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай» (1877, т. 1), у «Pamiętniku fizjograficznym» («Альманаху фізіяграфічным») — «Юрый (Святы Юры)» (1883, т. 3).

Зрабіў некалькі фальклорна-этнагр. і краязнаўчых экспедыцый, матэрыялы якіх апублікаваў у працы «Вясельныя ўрачыстасці» (1869), дзе, акрамя польскіх, змясціў бел. запісы з Брэсцкага і Трокскага паветаў. У часопісе «Wisła» («Вісла») змясціў артыкулы пра краязнаўчыя падарожжы («Падарожжа Нёманам», 1888; «На хвалях Буга», 1890; «У даліне Бебжы», 1892 і інш.). Даследаваў помнікі археалогіі каменнага і бронзавага вякоў на Беларусі, у Польшчы і Літве (толькі з Слонімскага пав. ў калекцыі Г. быў 191 археалагічны прадмет). Апублікаваў шмат матэрыялаў пра бел. драўляную архітэктуру. З 1870 жыў у Яжаве (ПНР), сабраў вялікую музейную калекцыю археалагічных, археаграфічных, этнагр. матэрыялаў, багатую бібліятэку і збраёўню. У яго прыватным музеі захоўваліся бел. матэрыялы са збораў М. Федароўскага, А. Кіркора, Я. і К. Тышкевічаў, А. Ельскага і інш. Сабраныя матэрыялы Г. выкарыстаў у «Старапольскай энцыклапедыі» (т. 1—4, 1900—03, 4 выд. 1978).

*Тв.:* Notatki archeologiczne Michała Federowskiego z okolic Slonima, Kurhany pod Wiszowem. Warszawa, 1882; Budownictwo drzewne i wyroby z drzewa w dawnej Polsce. T. 1. Warszawa, 1907—09; Starożytne osady z czasów użytku krzemienia na ziemiach dawnej Polski//Kłosy. 1875. T. 20.

*Літ.:* Federowski M. Zygmunt Gloger. Warszawa, 1912; Syska H. Zygmunt Gloger. Warszawa, 1963. *Г. А. Каханоўскі.*

**ГЛЫБО́ЦКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў з г. Глыбокае. У 1920—30-я г. працавала каля 10 майстроў, якія выраблялі разнастайную гаспадарчую і дэкаратыўную кераміку — гаршкі, макатры, бабачнікі, збанкі, гарлачы, глякі, слоікі, спарышы, міскі, паўміскі, масленіцы, цукарніцы, хлебніцы, чайнікі, кубкі, рукамыйнікі, вазоны, а таксама цацкі і інш. Посуд вызначаўся плаўнымі мяккімі абрысамі. У залежнасці ад памераў меў розныя назвы (гл. *Ганчарная сістэма мер*).

Фармавалі ў тэхніцы выцягвання на нажным *ганчарным крузе*. У фармовачную масу для пячнога посуду дамешвалі *жарству*. Амаль усе керамічныя рэчы пакрывалі празрыстай свінцовай палівай, якая ў залежнасці ад тэмпературы абпальвання заставалася бясколернай або прымала зеленаватае адценне. Посуд карычнева-чырвонага



**Глякі.**

колеру цаніўся больш высока. Выраблялі таксама чорназадымлены і гартаваны посуд, гал. чынам для гатавання гарачай ежы. Традыцыйны дэкор стрыманы: лінейны арнамент з 2—3 прамых палосак на верхняй частцы посуду. У 1920-я г. была пашырана кераміка з падпаліўнай размалёўкай пераважна раслiннага характару, выкананая пэндзлікам або ражком па чырвоным фоне ў 2—3 колеры — белы, зялёны, цёмна-карычневы. У якасці фарбаў выкарыстоўвалі белы ангоб, парашок перапаленай медзі (зялёнка), вокіс марганцу (бруштын). З 1970-х г. промысел не існуе. Калекцыя Г. к. зберагаецца ў Бел. дзярж. музеі нар. архітэктуры і побыту. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГЛЯК,** ганчарны выраб; гліняная пасудзіна для захоўвання і транспарціроўкі вадкіх рэчываў — алею, квасу, вады і інш. Шарападобная, радзей крыху падоўжаная пасудзіна з плоскім дном, кароткім вузкім горлам з дзюбкай або без яе, 1—2 ручкамі (вядомы Г. і з пляскатымі бакамі, без ручак, з 4 гарызантальна пастаўленымі вушкамі ўверсе і ўнізе тулава, праз якія прасоўвалі вяроўку). Памеры ад цацачных (0,1 л) да вялікіх (8—10 л). У Г. заварвалі чай, рабілі настой зёлак (таму на З Віцебшчыны яго называлі зелянік). Маюць іншыя лакальныя назвы: глёк — на У, агляк, ляк — на Пн і ПнЗ, бунька, банька — на ПдЗ. Выраблялі Г. чорна-задымленыя, паліваныя, зрэдку гартаваныя. Упрыгожвалі іх глянцаваным і лінейна-хвалістым контррэльефным арнаментам, часам *ангобнай размалёўкай.* *С. А. Мілючэнкаў.*

**«ГНЯВА́Ш»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^{3}/_{8}$. Тэмп павольны. Лакальныя назвы «Загневаны», «Гнеўка». Выканаўцы (дзяўчына і хлопец) у тэатралізаванай форме паказваюць сварку і прымірэнне закаханых. Часта суправаджаўся песняй («Даяўчына мая заручоная, чаго так ходзіш засмучоная...»). Больш вядомы ў зах. абласцях рэспублікі. Бытаваў і ў іншых раёнах пад назвай «Спрэчка ўлюблёных», «Качарга» і інш. На Магілёўшчыне вядомы варыянт «Г.», што выконваўся толькі мужчынамі. *Ю.М. Чурко.*

**«ГО́ЛАС РАДЗІ́МЫ»,** газета Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (Беларускае таварыства «Радзіма»). Выдаецца штотыднёва на бел. мове ў Мінску з 6.4.1955. Асобныя матэрыялы друкуюцца на рускай мове, штомесячна змяшчаюцца англійская і іспанская старонкі. Выходзіла спачатку як дадатак да газ. «Звязда», у 1958 створана самастойная рэдакцыя, да студзеня 1960 называлася «За вяртанне на Радзіму». Разлічана на беларусаў, якія жывуць за мяжой, распаўсюджваецца больш як у 50 краінах свету і ў БССР. Друкуе матэрыялы пра грамадска-паліт., эканамічна-культурнае жыццё, сацыяльныя змены на Беларусі за гады Сав. улады, дзейнасць рэспублікі на міжнар. арэне. Сістэматычна змяшчае артыкулы пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў; нар. традыцыі, звычаі, абрады, рамёствы, мастацтвы, фальклорна-этнагр. калектывы і інш., біяграфічныя нарысы пра этнографаў і фалькларыстаў, нар. умельцаў. На яе старонках выступалі этнографы і фалькларысты Н. І. Буракоўская, У. С. Гуркоў, С. А. Мілючэнкаў, С. Ф. Цярохін, Г. А. Барташэвіч, А. І. Гурскі, Г. А. Каханоўскі, А. С. Ліс, А. С. Фядосік і інш. Выдае серыю брашур і кніг «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы».

*В. Г. Мацкевіч.*

**ГО́МЕЛЬСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 7.11.1919. У 1931 створаны антырэлігійны аддзел, на яго базе — Гомельскі музей атэізму (1939—41). У Вял. Айч. вайну частка экспанатаў эвакуіравана ў г. Урупінск Валгаградскай вобл., большасць разрабавана нямецка-фашысцкімі за-

хопнікамі. Адноўлены ў 1946. Мае 17 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 1022 м²), 120 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). У аддзелах прыроды, мастацкім, гісторыі дасав. і сав. перыядаў матэрыялы археалагічных раскопак на тэрыторыі вобласці, нумізматычная калекцыя 16—19 ст., гербы стараж. гарадоў Турава, Гомеля, Рагачова, Рэчыцы, Чачэрска, пячатка Рукавічаў, зброя, прылады працы і побыту беларусаў 18—19 ст. (саха, барана, пляценне з лазы, даматканае адзенне, драўлянае хатняе начынне, посцілкі, ручнікі і інш.), дакументальныя матэрыялы пра рэвалюцыйны рух на Гомельшчыне ў канцы 19—20 ст., Кастрычніцкую рэвалюцыю, грамадзянскую і Вял. Айч. войны, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў краі. Зберагаюцца творы жывапісу, графікі, скульптуры рускіх і бел. майстроў, у т. л. гамяльчан. У фондах музея стардрукаваныя кнігі, калекцыі хустак 18—19 ст., нар. адзення 19— пач. 20 ст., тканін дэкаратыўна-бытавога і абрадавага прызначэння, мэблі, самавараў, гадзіннікаў, кандэлябраў, прылады промыслаў і рамёстваў (кавальства, ткацтва, бортніцтва, рыбалоўства і інш.), творы традыцыйнага і сучаснага нар. мастацтва Гомельшчыны. Этнагр. матэрыялы музея выкарыстоўваюцца для арганізацыі тэматычных выставак («Вышыўка і ткацтва Гомельшчыны», «Ручнікі Гомельшчыны», «Народны касцюм Гомельшчыны»). Філіял — мемарыяльны музей П. М. Лепяшынскага, экспазіцыя адкрытага захоўвання фондаў у в. Хальч Веткаўскага р-на.

*В. Я. Фадзеева, Л. І. Шыловіч.*

**ГО́НІ,** старадаўняя народная мера даўжыні. Лакальная назва гон. Звычайна адлегласць, пройдзеная запрэжаным у саху канём у адзін бок без павароту або частка поля, апрацаваная (узараная ці скошаная) за адзін прыём. Мера не заўсёды аднолькавая, залежала ад фізічных магчымасцей чалавека і жывёлы, віду працы, таму ніколі не была афіцыйнай мерай, раўнялася прыблізна 80—100 м.

**ГО́НКА,** 1) назва звяна плыта на Прыпяці і Нёмане. 2) Плыт на Дняпры і Сожы даўжынёю 60—100 м.

**ГО́НШЧЫКІ,** *плытагоны* на Дняпры, Сожы, Прыпяці, Нёмане.

**ГО́РАД,** вялікі населены пункт, які з'яўляецца прамысловым, гандлёвым, культурным і адміністрацыйна-палітычным цэнтрам прылеглага раёна, вобласці, краіны. Для яго характэрны тэрытарыяльная канцэнтрацыя вытворчасці, большая люднасць і тэрыторыя, больш разнастайны, чым у вёсцы, сацыяльны і этнічны склад насельніцтва. Звычайна гараджане заняты ў прамысловасці, гандлі, сферах абслугоўвання, кіравання, навукі і культуры. Гэта парараджае сукупнасць бытавых рыс, якія складаюць *гарадскі лад жыцця.* Для кожнай грамадска-эканам. фармацыі характэрны пэўны тып Г., абумоўлены ўзроўнем развіцця прадукцыйных сіл і вытворчых адносін. У розных рэгіёнах свету Г. маюць мноства мясцовых асаблівасцей, якія ўплываюць на іх аблічча, працоўную дзейнасць і побыт жыхароў.





**Горад** Віцебск. Від на старую забудову з боку р. Віцьба.



Тураў. З малюнка Н. Орды. 2-я палова 19 ст.

Полацк. З гравюры 16 ст.

Як тып пасялення Г. узнік на ранняй ступені грамадскага падзелу працы — аддзялення рамяства ад земляробства, узнікнення рэгулярнага тавараабмену, што адбыліся пры пераходзе ад першабытнага да рабаўладальніцкага ладу, а ў некаторых краінах — да феадальнага. Найбольш ранняя функцыя Г. — апорны пункт абароны (назва «горад» узнікла ад стараж. звычаю агароджваць пасяленне, ператвараць яго ў крэпасць). У далейшым функцыі пашыраліся і мяняліся ў залежнасці ад заканамернасцей пануючага спосабу вытворчасці і канкрэтных гіст. умоў, якія вызначалі працэс урбанізацыі і роль Г. ў жыцці грамадства і дзяржавы.

Першыя бел. Г., як і інш. ўсх.-слав., былі ўмацаванымі агароджанымі паселішчамі, размяшчаліся на берагах буйных рэк ці ў сутоку двух рэк, на высокім мысе або пагорку. Ядром Г. з'яўляўся *дзядзінец,* абнесены абарончымі збудаваннямі. У 9—12 ст. у Г. канцэнтраваліся рамеснікі і гандляры, якія сяліліся па-за ўмацаваннямі і ўтваралі вакол іх *пасады.* Планіроўка стараж. Г. вызначалася асаблівасцямі рэльефу. Вуліцы звычайна разыходзіліся ад цэнтра ў напрамку бліжэйшых населеных пунктаў. Вуліцы цэнтра Г. масцілі бярвеннем, плашкамі ці дошкамі. Планіровачнай адзінкай пасадаў быў двор сядзібнага тыпу, які адначасова з'яўляўся і вытворчай адзінкай. Стараж.-рускія летапісы 9—13 ст. называюць на тэр. Беларусі 38 гарадоў, Наўгародскі 1-ы летапіс малодшага зводу (сярэдзіна 15 ст.) —42. У раннефеадальны перыяд большасць Г. набыла значэнне адм. цэнтраў удзельных княстваў. З пашырэннем хрысціянства некаторыя Г. сталі цэнтрамі рэлігійнага культу,

рэзідэнцыямі царквы і духавенства. Важным заняткам жыхароў заставалася земляробства, жывёлагадоўля, агародніцтва. Гараджане выконвалі розныя павіннасці на карысць дзяржавы (будавалі і рамантавалі замкі, двары, дарогі,





**Горад** Пінск. Гістарычная частка горада.

Дуброўна ў канцы 18 ст. З акварэлі М. Іванова.

масты і інш.). Развіццё рамёстваў і гандлю прывяло да арганізацыі цэхаў (гл. *Цэхі ремеснікаў*). У буйных Г. цэхі аб'ядноўвалі рамеснікаў аднаго або некалькіх рамёстваў, у малых пераважалі цэхі з вялікай колькасцю рамёстваў. Найважнейшыя галіны рамяства: апрацоўка жалеза, дрэва, косці і каменю, ганчарная, гарбарная, шавецкая, кравецкая вытворчасць, ювелірная справа і інш. Буйныя Г. былі звязаны бойкімі дарогамі з *гасцінцамі*, па якіх вазілі свой тавар купцы — «госці». З пашырэннем у феадальных Г. рамеснай вытворчасці і гандлю яны ўключаліся ў арбіту таварна-грашовых адносін, станавіліся цэнтрамі ўнутраных лакальных рынкаў, міжгарадскіх унутраных і знешніх сувязей, асабліва з Прыбалтыкай, Польшчай, Чэхіяй, Германіяй (Полацк стаў буйным гандлёвым рачным портам, Віцебск — цэнтрам суднабудавання, Магілёў — апрацоўкі футра, гарбарства). Гарадское самакіраванне было арганізавана на саслоўных асновах паводле магдэбургскага права і мясцовых звычаяў (гл. *Звычай, Звычаёвае права*). Г. былі цэнтрамі рэфармацыйнага руху і супраціўлення нацыянальна-рэлігійнаму прыгнёту (гл. *Брацтвы*). Насельніцтва расло пераважна за кошт сялян, якія шукалі тут ратунку ад прыгонніцтва,— выхадцаў з бел. сёл, а таксама з суседніх зямель (перасяленцаў — яўрэяў, татарскіх пасяленцаў). З 2-й пал. 16 ст. насельніцтва Г. папаўнялася і маламаёмнай шляхтай. Сацыяльны склад, маёмаснае і прававое становішча насельніцтва Г. былі неаднолькавыя. Прывілеяванае становішча займалі феадалы-баяры, вышэйшае духавенства, да іх далучаліся найбольш багатыя купцы, сярод якіх былі і заможныя землеўладальнікі. Пераважнай па колькасці групай былі рамеснікі, гандляры і сярэднія купцы, земляробы. Значную праслойку складалі нізы — немаёмныя вольныя гараджане. Буйнымі лічыліся Г., якія мелі 10 тыс. і больш жыхароў (Полацк, Віцебск, Мінск, Брэст, Магілёў), сярэднімі — больш за 5 тыс., малымі —2—5 тыс. жыхароў. Ад Г. адрозніваліся меншай колькасцю агульнага і рамесна-гандлёвага насельніцтва паселішчы гарадскога тыпу — *мястэчкі*. Да 17 ст. на Беларусі было 68 Г. і 265 мястэчак. Яны падзяляліся на дзярж. і прыватнаўласніцкія. Адыгрывалі важную ролю ў развіцці грамадскага жыцця, культуры, росце вытворчасці.

Знешняе аблічча феадальнага Г. істотна не мянялася многія стагоддзі. Галоўнымі архітэктурнымі комплексамі былі замак, рамесніцка-гандлёвы пасад і гандлёвая плошча — гаспадарчы цэнтр, дзе знаходзіліся ратуша, гасціны двор, храм, крамы. На замкавай тэрыторыі размяшчаліся дамы буйной шляхты, гарадской адміністрацыі і багатых гараджан. Бедныя гараджане сяляліся ў пасадах і слабодах. Структурным элементам забудовы аставалася сядзіба з хатай, дваром і гаспадарчымі пабудовамі. Забудова была скучаная, пераважна драўляная, развівалася стыхійна.

У 2-й пал. 17—1 пал. 18 ст. наглядаўся заняпад Г., выкліканы спусташэннем іх у час шматлікіх войнаў і эпідэмій. У 2-й пал. 18 ст., асабліва пасля далучэння Беларусі да Расіі, эканоміка Г. стабілізавалася, ішло іх далейшае развіццё. У 1-й пал. 19 ст. адбыўся значны зрух у развіцці Г., выкліканы зараджэннем капіталізму на Беларусі. У рамесніцкай вытворчасці набольшала значэнне галін, заснаваных на эксплуатацыі наёмнай працы, у радзе Г. узніклі прадпрыемствы мануфактурнага тыпу, фабрыкі і заводы, адбываўся далейшы рост колькасці гарадскога насельніцтва (у 1811 гараджане складалі 4,2 %, у 1861—10,7 %). Узмацніўся абмен паміж Г. і вёскай, што прывяло да павелічэння сярод гараджан неземляробчага насельніцтва. У 2 пал. 19—пач. 20 ст. адметнай рысай Г. была перавага ў іх дробных прадпрыемстваў, капіталістычная прамысловасць дасягнула значнага развіцця толькі ў некалькіх гарадах (Віцебск, Гродна, Мінск, Магілёў). Пераважная колькасць Г. мела нізкі ўзровень добраўпарадкавання. Забудова невялікіх Г. была амаль поўнасцю драўлянай, жыллё і гаспадарчыя пабудовы тоесныя вясковым. У 1913 жыхары Г. складалі да 14 % агульнага насельніцтва Беларусі (за кошт павелічэння яго ў буйных і сярэдніх гарадах, больш развітых у прамысловых адносінах).

Са страж. часоў гараджане прадстаўлялі шматнацыянальную сацыяльную супольнасць, хоць пераважную большасць іх складалі выхадцы з карэннага мясцовага насельніцтва. Аднак нацыянальная палітыка царызму, уваход Беларусі ў мяжу аселасці прывялі да таго, што ў перыяд капіталізму большасць гарадскіх жыхароў адрознівалася па нацыянальнасці ад сельскага насельніцтва. Асноўнай гутарковай мовай гараджан была руская.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адбыліся значныя змены ў абліччы Г. Галоўным фактарам, што абумовіў іх рост, эканам. і культурную ролю, стала індустрыялізацыя нар. гаспадаркі. Разгарнулася прамысловае і жыллёва-камунальнае будаўніцтва, створана сетка школ, вышэйшых і сярэдніх навучальных, культурна-асветных устаноў, бальніц. Вялікае значэнне набыла цесная сувязь і ўзаемадапамога паміж Г. і вёскай. За гады Вял. Айч. вайны на Беларусі разбурана 209 Г. і пасёлкаў гарадскога тыпу. Пасляваенны перыяд характарызуецца інтэнсіўным эканам. і сацыяльным развіццём. У 1950—80-я г. аб'ём прамысловай вытворчасці БССР павялічыўся ў 25 разоў, рэзка вырасла колькасць гарадскіх жыхароў. У 1970 па ўдзельнай вазе гарадскога насельніцтва БССР займала 12-е месца сярод саюзных рэспублік, у 1984 — 7-е. Сацыялістычная урбанізацыя і буйны рост прамысловай вытворчасці выклікалі змены і ў сацыяльна-прафесійнай структуры гараджан і ў іх этнічным складзе: у 1926 беларусы складалі 39,3 % гар. насельніцтва, у 1970—69,3 %, у 1979—71,5 %; у гарадах пражываюць прадстаўнікі 80 нацыянальнасцей. На пачатак 1988 у БССР 99 гарадоў і 111 пасёлкаў гарадскога

тыцу, у якіх пражывае 6 млн. 620 тыс. чалавек (65 % насельніцтва рэспублікі). Многія Г. сталі важнымі індустрыяльнымі, навуковымі і культурнымі цэнтрамі рэспублікі і краіны. *В. М. Бялявіна, З. Ю. Капыскі.*

**ГО́РАН,** 1) кавальская печ для награвання металу, стацыянарнае абсталяванне *кузні*. Лакальная назва гарно. Прамавугольны ў плане апечак рабілі з дрэва, мураваді з камянёў ці цэглы і запаўнялі глінай, часам над ім мацавалі бляшаны ці драўляны каптур для выхаду дыму. На левым краі ставілі невысокую мураваную сценку, каля яе рабілі паглыбленне для вугалю, куды праз адтуліну ў сценцы выводзілі сапло меха, што служыў для раздзімання ў Г. агню. Верх і дно меха (клапаны) былі дашчаныя на завесах, а скураныя бакавіны — накшталт гармоніка. Прыводзіўся ў дзеянне з дапамогай драўлянага рычага на почапцы. У наш час мех саступіў месца вентылятару з электрапрыводам, Г. абсталёўваюць каптурамі для выцяжкі дыму. 2) Вогнішча на плыце для прыгатавання ежы. Непадалёку ад будкі на бярвёнах рабілі насціл або скрынку (клетку) з дошак і насыпалі туды пясок, на якім распальвалі вогнішча. Часам пясок насыпалі на дзёран, укладзены травой уніз. 3) Спецыяльная печ для абпальвання ганчарных вырабаў. Гл. *Ганчарны горан.*

*Н. І. Буракоўская, Я. М. Сахута.*

**ГО́РЫНЬ** (ад ням. Garn пража), назва чырвоных баваўняных нітак для вышывання і ткання. Тэрмін бытаваў пераважна на тэр. Брэсцкай і Гродзенскай абласцей.

**ГРАБА́РСТВА,** традыцыйны промысел, звязаны з землянымі работамі, якія выконвалі грабары. Яны капалі каналы, дрэнажныя канавы, студні, працавалі на пракладцы дарог і чыгунак, будаўніцтве крэпасцей. Бел. грабары ў 17 ст. насыпалі валы ў Магілёве, у 1-й пал. 19 ст. выконвалі земляныя работы ў Крамлёўскім садзе ў Маскве, удзельнічалі ў будаўніцтве і рэканструкцыі Агінскага, Дняпроўска-Бугскага, Бярэзінскага, Марыінскага, Наваладажскага і інш. каналаў, працавалі ў Пецярбургу, Кіеве, Варшаве. У 1824 у Пецярбургу на земляных работах працавала 600 прыгонных сялян з Віцебскай і Магілёўскай губ.; у 1852 у Кіеве — 420 чал. з Магілёўскай губ.; у 1830-я г. грабары з Гродзеншчыны, Магілёўшчыны і Міншчыны будавалі крэпасці Модлін і Александраўскую ў Варшаве; у 1860-я г. жыхары Кобрынскага і інш. паветаў Гродзенскай губ. наймаліся на будаўніцтва Брэсцкай крэпасці. Арцелі бел. грабароў у 1830—40-я г. пракладвалі шашэйныя дарогі Брэст — Бабруйск, Магілёў — Бабруйск, Масква — Варшава, Пецярбург — Кіеў, будавалі Пецярбургска-Маскоўскую чыгунку. У 2-й пал. 19 ст. Г. пашырана ў сувязі з актыўным будаўніцтвам чыгунак (Маскоўска-Брэсцкай, Пецярбургска-Варшаўскай, Лібава-Роменскай, Рыга-Арлоўскай і Палескай). Бел. грабары працавалі на меліярацыйных работах на Палессі, што ажыццяўляліся экспедыцыяй І. І. Жылінскага ў 1873—98. У 19 ст. Г. было адыходным промыслам, аднак да адмены прыгоннага права (1861) мела пераважна характар прымусовай здачы сялян памешчыкамі на работы паводле кантрактаў з падрадчыкамі. У 1835 былі зацверджаны «Правілы аб здачы беларускімі памешчыкамі сваіх сялян па найму на земляныя і іншыя чорныя работы». Паводле гэтых правілаў у наём здавалі мужчын ва ўзросце 20—48 гадоў тэрмінам на 6 месяцаў з 1 мая да 1 лістапада. Умовы працы і побыту наёмных грабароў былі невыноснымі: 12-гадзінны рабочы дзень, цяжкая ручная праца з дапамогай рыдлёўкі, лома, насілак, тачкі, мізэрнае харчаванне, нездавальняючыя жыллёвыя (баракі, зямлянкі) і санітарна-гігіенічныя ўмовы, злоўжыванні падрадчыкаў. Так, у 1852 з закантрактаваных 420 сялян з маёнтка Саржыцы Сенненскага пав. праз 4 месяцы 25 памерла, а 370 уцяклі з месца працы. У канцы 19— пач. 20 ст. аб'ём земляных работ на Беларусі зменшыўся, Г. як промысел набыло мясцовае значэнне (капанне калодзежаў, канаў, сажалак). У наш час земляныя работы механізаваны. *Н. І. Буракоўская.*

**ГРАБАРЫ́,** рабочыя, якія выконвалі земляныя работы; землякопы. Гл. ў арт. *Грабарства.*



Горад Барысаў. Гандлёвая плошча. Пачатак 20 ст.



**ГРАБЕ́НЬЧАТА-НАКО́ЛЬЧАТАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура неалітычных плямён; тое, што і *днепра-данецкая культура.*





Горан.

Граблі.

**ГРАБЁНКА,** назва звяна плыта ў бас. Дняпра (Дняпро, Сож). Лакальная назва тарка. Некалькі Г. звязвалі ў пленіцы (даўжыня 8—17 м, шырыня 5—7 м); 2—4 пленіцы складалі плыт — *гонку* (даўжыня 60—100 м).

**ГРАБЛІ,** прылада для зграбання сена, саломы, скошанай канюшыны і г. д. Выкарыстоўваліся таксама ў час малацьбы на таку для выграбання каласкоў, цёртай саломы з зерневай кучы. Вядомы з глыбокай старажытнасці. Драўляныя Г. складаліся з галоўкі з 8—14 зубамі і грабільна, ці ручкі. Зубы даўж. 7—10 см выразалі з цвёрдых парод дрэва (дуба, ясеню, грабу) і ўстаўлялі ў галоўку на адлегласці 5—5,5 см адзін ад аднаго. Развілка грабільна мацавалася з дапамогай кольца з дроту ці збівалася цвіком. У шэрагу мясцін

галоўку рабілі крыху выгнутай. Для працы на таку майстравалі больш лёгкія Г. з 8—9 кароткімі драўлянымі зубамі. У наш час для працы на агародзе, у садзе выкарыстоўваюць Г. жалезныя (апрача грабільна). Яны служаць для рыхлення глебы на малой плошчы, зграбання лісця, смецця і г. д. *Л. І. Мінько.*

**ГРАМАДА́**, назва сельскага пазямельнага аб'яднання жыхароў вёскі на Беларусі; гл. ў арт. *Абшчына.*

**ГРАМНІ́ЦЫ**, зімовае свята *народнага календара* (адзначалася 2 лютага с. ст.). Мяркуюць, што назва паходзіць ад язычніцкага бога Грамаўніка (Перуна) — бога веснавых навальніц і дажджоў, якія спрыялі раслінналсці. Паводле іншых меркаванняў Г. названы так таму, што Юрай нібыта выпрабоўвае на нячыстай сіле свае стрэлы і менавіта з гэтага дня ўжо можна пачуць грымоты. Другая назва Г.— стрэчанне — тлумачыцца як «стрэча» зімы з летам («Грамніца — зімы палавіца»). Па стану надвор'я ў гэты дзень прадказвалі надвор'е надыходзячых вясны і лета. Калі на Г. вялікі мароз, то лічылася, што снег паляжыць нядоўга, а лета будзе пагоднае і сухое; мяцеліца на Г. прадказвала доўгую вясну, а значыць — недахоп корму для жывёлы; пацяпленне на Г. сведчыла пра раннюю вясну («калі на грамніцы певень нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я вол пад'есць травіцы»), аднак лета чакалася непагоднае з невялікім ураджаем. Асноўным рытуалам на Г. было асвячэнне ў царкве свечак (уплыў хрысціянскай рэлігіі на ранейшае язычніцкае свята). Грамнічныя свечкі (грамніцы) шанавалі ў народзе: іх запальвалі ў навальніцу, каб маланкі не спалілі хату; давалі хвораму ў час агоніі, выкарыстоўвалі як уяўны лячэбны сродак ад галаўнога болю; падвешвалі ў хляве ці стайні, каб нячыстая сіла не шкодзіла хатняй жывёле. Пасля свята Г. селянін пачынаў рыхтавацца да веснавых работ.

*У. А. Васілевіч.*

**ГРАЧА́НІКІ**, выраб з грэцкай мукі. З рэдкага цеста пяклі бліны-Г., якія змазвалі тоўчаным канапляным семем. На блясе пяклі таксама бабкі-Г., якія рашчынялі на жытняй ці ячнай муцэ, замешвалі грэцкай мукой.

**«ГРАЧА́НІКІ»**, традыцыйны танец. Лакальныя назвы «Грэчка», «Грэчачка». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Асноўныя рухі: падэбаск, прысядка, падбіўка, вяровачка, дробат. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на Пд і ПдУ Беларусі. Танец выконвалі па аднаму і ў пары. На Магілёўшчыне танцавалі на вяселлі, калі пяклі грачаныя бліны. На Гомельшчыне ў танцы паказвалі, як месяц цеста, як пякуць аладкі. На Брэстчыне пасля выканання фігуры «ручаёк» усе танцоры рабілі кучу малу (падалі адзін на аднаго). Неад'емная частка танца — прыпеўка:

Гоп, мае грачанікі,
Гоп, мае ячныя,
Чаму ж мае грачанікі
Не ўдаліся смачныя?

Выконвалі і інш. прыпеўкі.

*А. Л. Варламаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ ГІСТО́РЫКА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1920, адкрыты 9.12.1922. У Айч. вайну разрабаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі. Адноўлены ў 1946. Размяшчаецца ў Гродзенскім Старым замку. Мае 23 экспазіцыйныя і 2 выставачныя залы; плошча экспазіцыі 1600 м², звыш 110 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: гісторыі дасав. перыяду, гісторыі сав. грамадства, прыроды краю. У тэматычных раздзелах матэрыялы археалагічных раскопак на Замкавай гары ў Гродне, Ваўкавыскага, Індурскага і Турэйскага гарадзішчаў 11—12 ст., калекцыі манет 16—17 ст., зброі 12, 14— пач. 20 ст., бел. нацыянальных музычных інструментаў (ліра, дуда, цымбалы і інш.), этнагр. матэрыял 16—20 ст. (кафля паліхромная, глазураваная і неглазураваная, калекцыі пораздаўскай керамікі, прадметаў з металу: абклады, пацiры, крыжы, лямпы, самавары і г. д., шкла, узоры ткацтва, вышыўкі, разьба па дрэве); унікальныя экспанаты (каменная фігура шахматнай туры 12 ст., пласціны з выгравіраванымі выявамі апосталаў у абрамленні кругоў з складаным раслінным і плеценым арнаментам з начыння Гродзенскай Ніжняй царквы 12 ст., царскія вароты, сплеценыя з саломы мясцовымі майстрамі 18 ст.) і інш. Экспануюцца дакументы і матэрыялы пра паўстанне 1863—64, рэвалюцыйны рух на Гродзеншчыне ў канцы 19— пач. 20 ст., Кастрычніцкую рэвалюцыю і грамадзянскую вайну, барацьбу працоўных Зах. Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў часы панавання буржуазнай Польшчы, пра партызанскі і падпольны рух у Айч. вайну, вызваленне краю ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры. Сярод экспанатаў — узор бел. скорапісу на пергаменце, Статуты Вял. кн. Літоўскага, «Хроніка Польшчы» (усе 16 ст.), рукапісныя граматы 16—18 ст., матэрыялы пра бел. і польскіх пісьменнікаў, бел. этнографаў і фалькларыстаў Е. Р. Раманава, Я. Ф. Карскага і інш. Зберагаюцца творы жывапісу, графікі, скульптуры бел. і рускіх майстроў, узоры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва нар. майстроў Гродзеншчыны і інш. Філіял: Музей баявой славы ў Гродне.

*Я. Ф. Васькова.*



«Грачанікі». Выконвае фальклорны калектыў з вёскі Маркава Маладзечанскага раёна.

**«ГРО́ДНЕНСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕДОМО́СТИ»**, афіцыйная газета. Выдавалася ў Гродне на рус. мове Гродзенскім губ. праўленнем з 7(19).1.1838 да 31.7(13.8).1915. Перыядычнасць мянялася (1,2,3 разы на тыдзень, штодзённа). Мела афіцыйную і неафіцыйную часткі. У афіцыйнай частцы друкаваліся паведамленні, указы, распараджэнні, аб'явы мясцовай улады, у неафіцыйнай (да 1850-х г. дадаткі да афіцыйнай) — літаратуразнаўчыя і гіст.-краязнаўчыя артыкулы, матэрыялы па этнаграфіі і культуры мясцовага насельніцтва. У 1899 афіцыйная і неафіцыйная часткі аб'яднаны ў адно выданне. У 1903—06 неафіцыйная частка выходзіла штотыднёва як асобнае выданне пад той жа назвай. Першыя этнагр. публікацыі з'явіліся ў 1840-я гг.: «Нешта аб русалках» (1845, № 31), «Статыстычна-этнаграфічныя звесткі аб Бельскім павеце Гродзенскай губерні» І. Ярашэвіча (1848, № 20—22). З 1864 у сувязі з палітыкай царскага ўрада на выкараненне паланізацыі ў краі колькасць этнагр. артыкулаў пабольша-

ла, але некаторыя з іх вызначаліся тэндэнцыйнасцю: «Звычаі і абрады заходнярускіх сялян» (1867, № 30—40, 42, 43), «Песні заходнярускага народа» (1868, № 23, 25—28, 30—36), «Казкі заходнярускага народа» (1868, № 37—39) М. А. Дзмітрыева; «Народныя песні Гродзенскай губерні Ваўкавыскага павета» І. Прыгароўскага (1868, № 7—18); «Народныя прыказкі і прымаўкі Пружанскага павета» Ф. Варажбіцкага (1868, № 21); «Мястэчка Бездзеж (Кобрынскага павета Гродзенскай губерні)» Ф. В. Стаўровіча (1867, № 46, 48, 49); «Вясковае вяселле ў Кобрынскім павеце», «Мясцовыя рускія народныя казкі», «Мясцовыя народныя рускія песні» (аўтары невядомы, 1864, № 42, 44, 45). У артыкулах «Пра зборнік заходнярускіх прыказак і прымавак» (1866, № 41), «Нататка пра гісторыю народнай паэзіі» (1867, № 21), «Пра этнаграфічныя звесткі, што датычацца Заходняй Расіі» (1867, № 22) Р. Кулжынскі заклікаў інтэлігенцыю вывучаць свой край, выступаў супраць пануючай у той час міфалагічнай школы ў этнаграфіі і фалькларыстыцы. Найбольш інтэнсіўна этнагр. матэрыялы выходзілі ў 1891—97, што было абумоўлена развіццём нацыянальна-вызваленчага руху, ростам нацыянальнай самасвядомасці. Узмацненню краязнаўчага кірунку газеты садзейнічала супрацоўніцтва ў ёй лепшых прадстаўнікоў бел. этнагр. навукі. М. В. Доўнар-Запольскі змясціў праграмны артыкул «Значэнне этнаграфічнага вывучэння Гродзенскай губерні» (1893, № 61) і працу «Матывы вясельных песень пінчукоў» (1893, № 48, 49, 55—58; у 1893 выдадзена асобнай кнігай). Апублікаваны даследаванне А. Я. Багдановіча «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1895, № 11, 12, 14, 18—20, 22—26, 31, 32, 34, 37, 38, 42, 44, 45; у 1895 выдадзена асобнай кнігай), артыкулы «Вясковая драма (апавяданне з беларускага жыцця)» (1893, № 84, 85, 87) і «Дучкар» (1894, № 1). Беларускай традыцыйнай абраднасці прысвечаны публікацыі: «Дзяды» (1891, № 97), «Як захоўвае наш народ памяць аб сваіх памёршых» (1891, № 99), «Мясцовыя народныя звычаі ў калядных святах» (1892, № 2), «Пра святы з грамадскім абедам у сялян» (1892, № 92), «Сёе-тое пра калядныя святы ў Гродзенскай губерні» (1893, № 2), «Пра свята Грамніцы ў беларусаў і свяча для гэтага свята» (1893, № 11), «Маладзікоў тыдзень на Беларусі» (1893, № 31), «Некаторыя мясцовыя народныя звычаі ў дзень «Святога Юрыя» (1893, № 32), «Сёмуха» (1893, № 40), «Ільін дзень на Беларусі» (1893, № 57), «Калядныя звычаі» (1894, № 1), «Апісанне звычаю вадзіць «куст» у дзень Тройцы...» (1894, № 47), «Вясельныя абрады» (1895, № 1); вераванням і медыцыне — артыкулы «Пячатка-змея (забабоны сялян Пружанскага павета)» (1893, № 41), «З мясцовага жыцця (забабоны аб стогне пахаванай ведзьмы)» (1891, № 81), «Арыгінальныя забабоны жанчын Ашмянскага павета пра халеру» (1893, № 70), «З сяла Дружылавічы Кобрынскага павета (забабоны сялян)» (1894, № 67), «Нататкі аб народнай медыцыне і чараўніцтве» (1895, № 42, 44), «Цёмныя сілы ў вёсцы (знахарства ў Слонімскім павеце)» (1897, № 66). Газета друкавала гіст.-бытавыя нарысы: «Кароткае апісанне Гродзенскай губерні» К. В. Бірулі (1897, № 20), «Кароткае апісанне сяла Ятвеска Гродзенскай губерні Ваўкавыскага павета» (1891, № 15—17, 21—25), «Лосінская валасць Бельскага павета» Блізняца (1894, № 3—4), «З Кобрынскага павета» Кабрынца (1897, № 30), невядомых аўтараў «Падарожныя нататкі па Кобрынскім павеце» (1897, № 29, 33, 34), «Мельнік — заштатны горад Гродзенскай губерні (умовы жыцця і занятκі)» (1897, № 74). Шэраг артыкулаў прысвечаны мінуламу Беларусі: «Помнікі старажытнасці (с. Ятвеск Гродзенскага павета)» В. Канапацкага (1894, № 13), «Да этнаграфічнага мінулага Гродзенскай губерні», «Спосабы апрацоўкі глебы на Беларусі 300 гадоў назад» (аўтары невядомы; 1895, № 99, 1897, № 70); іншаэтнічнаму насельніцтву — артыкулы «Татарскае сяленне Крушаняны Гродзенскай губерні» (1892, № 18), «Шляхта-мазуры» (1892, № 66, 67, 73, 74) і інш. *П. У. Церашковіч.*



**Грубка** ў Нясвіжскім палацы.

**ГРУ́БКА**, невялікая печ для абагрэву жылля. Муруюць Г. з абпаленай цэглы (раней і з сырцу), паверхню абмазваюць глінай, беляць або пакрываюць кафляй. Каб Г. лепш награвалася, дымаход робяць з люфтамі (паваротамі). На Беларусі Г. вядома з 17 ст. Развілася яна са стаяка (у розных мясцовасцях меў назвы груба, сцяна, шчыток, казак і інш.), што спачатку прыбудоўваўся да печы і меў з ёю агульны дымаход. Пазней Г. пачалі ставіць асобна. Чатырохвугольныя і круглыя ў плане Г. на Беларусі бытуюць паўсюдна, часам іх робяць з плітамі для гатавання ежы. *У. С. Гуркоў.*

**ГРУЗІ́ЛА**, частка рыбалоўнай прылады, што прымацоўваецца да ніжняй вяроўкі сеткавых снасцей або лёскі вуд, каб апусціць іх да дна вадаёма. Лакальныя назвы кулька, балюк. Робіцца з гліны, камення, металу. У 2-й пал. 19—пач. 20 ст. пры лоўлі рыбы невадамі шырока ўжываліся Г. з керамікі і камення, у рыбалоўстве сеткамі камяні аплягалі лыкам, загортвалі ў анучы. Гліняныя Г. выраблялiся ганчарамі звычайна для ўласных патрэб і на заказ. Мелі бочкападобную або цыліндрычную форму з адтулінай унутры для працягвання вяроўкі. Ляпілі таксама авальныя Г. з ледзь выпуклымі бакамі накшталт дранiка. Зрэдку аздаблялі контррэльефным узорам, які адначасова паказваў прыналежнасць снасці таму або інш. рыбаку. У наш час ужываюцца разнастайныя па форме і вазе алавяныя, свінцовыя і інш. Г., што выпрабляюцца рознымі прадпрыемствамі, а таксама



**Грузіла** з каменя, аплеценага лыкам.



Гліняныя **грузілы**. Пач. 20 ст.

аматарамі-рыбаловамі на ўласныя патрэбы. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ГРУЦА**, 1) абтоўчаны ячмень, ячныя крупы. Ячмень сушылі, таўклі ў ступе, паліваючы вадой, каб адстала шалупінне, потым ачышчалі веяннем (палалі). З Г. варылі кашу, суп, на каляды — *куццю*. 2) Каша з абтоўчанага ячменю ці ячных круп. Лакальная назва гушча. Варылі густою (Віцебшчына, Гродзеншчына, некаторыя раёны Магілёўшчыны, Усх. Палессе) і рэдкаватаю, часам с фасоляй (Магілёўшчына, Гомельшчына, цэнтр. і інш. раёны Усх. Палесся). Рэдкую Г. варылі з мясам або на малацэ. *Г. Ф. Вештарт.*

**ГРЫДНІЦА**, 1) у старажытнарускай архітэктуры вялікае памяшканне ў княжацкім палацы або асобная пабудова, дзе жыла грыдзь (малодшая княжацкая дружына), прымалі гасцей, наладжвалі святочныя баляванні. 2) На Беларусі ў 16—18 ст.— будынак або асобнае памяшканне (у структуры палацаў, сядзібных дамоў, флігеляў у буйных сядзібна-палацавых і замкавых комплексах) для прывілеяванай чэлядзі. Асобная пабудова нагадвала 2- або 3-камернае традыцыйнае нар. жыллё з сенцамі і адным-двума жылымі пакоямі. Будаваліся пераважна з дрэва, накрываліся драніцай, гонтай, саломай. У жылых памяшканнях стаялі кафляныя грубкі (часам мураваныя печы), сталы, лавы (в. Лоск Валожынскага, Новы Двор Мінскага р-наў, г. п. Дзятлава). Некаторыя Г. ўключалі каморы, блакіраваліся са стайнямі і інш. гаспадарчымі пабудовамі. Г. ў фальварках выкарыстоўваліся таксама як *варыўні* (в. Грэск Слуцкага, Сямігосцічы Столінскага р-наў). Г. называліся таксама вялікія жылыя пакоі ў манастырах (Ляшчынскі манастыр пад Пінскам) і курныя хаты пры *корчмах*, дзе спыняліся на начлег простыя людзі. З 18 ст. больш пашырана назва Г.— чалядня. *Ю. А. Якімовіч.*

**ГРЫЖА́НКА**, даўняя страва з бручкі, якую крышылі на дробныя кавалкі, тушылі ў вадзе, запраўлялі малаком. Вядома на Віцебшчыне.

**ГРЫНБЛАТ** Майсей Якаўлевіч [16(29).3.1905, Мінск — 4.7.1983], беларускі савецкі этнограф, фалькларыст, гісторык. Канд. гіст. навук (1945). Чл. КПСС з 1947. Скончыў Ленінградскі ун-т (1930). Працаваў у Бел. аддзеле Наркамасветы БССР (1920), акцёрам у трупе У. Галубка (1921—25). З 1930 у АН БССР: у Ін-це гісторыі (1931—1941; 1945—56) і Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (1957—76), адначасова выкладаў у Мінскім педагагічным ін-це (1937—41) і БДУ (1939—41; 1945—55). Даследаваў духоўную і матэрыяльную культуру, грамадскі побыт, этнагенез беларусаў, займаўся пытаннямі тапа- і антрапанімікі, нар. лексікай, бібліяграфіяй беларусазнаўства. Адзін з аўтараў 2-томнай (т. 1, 1961) і 5-томнай (т. 1, 1972) «Гісторыі Беларускай ССР», даследавання «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць» (1967), нарыса «Беларусы» ў кн. «Народы еўрапейскай часткі СССР» (т. 1, 1964). Складальнік тамоў звода «Беларуская народная творчасць» (Дзярж. прэмія БССР 1986): «Радзінная паэзія» (1971), «Загадкі» (1972) і «Легенды і паданні» (1983, абедзве разам з А. І. Гурскім), «Прыказкі і прымаўкі» (кн. 1—2, 1976), «Выслоўі» (1979); бібліягр. паказ. «Беларуская этнаграфія і фалькларыстыка» (1972).

*Тв.*: Песні беларускага народа. Т. 1. Мн., 1940; Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. *А. С. Ліс.*

**ГРЫ́ЎНЯ**, 1) даўняя адзінка вагі каштоўных металаў. На Беларусі важыла прыблізна паўфунта (195,9 г). 2) Грашовая адзінка ў Вял. кн. Літоўскім вартасцю 48 грошаў (15 кап.). У сучаснай бел. мове слова «Г.» ўжываецца са значэннем грашовая адзінка як гістарызм, а таксама 10-капеечная манета.

**ГРЭБЕНЬ**, 1) пласцінка (пераважна з косці) з зуб'ем для расчэсвання валасоў або для заколвання і ўпрыгожвання жаночай прычоскі. 2) Прылада для часання льнянога валакна. Вядомы драўляныя (найб. старажытныя) і металічныя Г. На Беларусі бытавалі 2 тыпы драўляных Г.: лапатападобныя (характэрныя для Пд) і прамавугольныя (характэрныя для Пн). Першы тып выраблялі з аднаго кавалка дрэва (асіны, бярозы). На лопасці (шырынёй 20—35 см) прарэзвалі зуб'е (20—25 см), лопасць пераходзіла ў ручку (80—90 см); звычайна ручку клалі на ўслон і садзіліся на яе). Другі тып — прамавугольная дошка (даўжынёй 1 м, шырынёй 30—40 см), у цэнтры якой прыбівалі дошчачку з набітым на ёй драўляным зуб'ем. У 2-й пал. 19 ст. пашыраны былі Г. з металічным зуб'ем, набітым пасярэдзіне або на абодвух канцах дошкі (рэдкае і частае). У самаробных Г. набівалі звычайныя цвікі.



**Грэбень** з драўляным зуб'ем для часання льну. Вёска Койры Пастаўскага раёна.



Лапатападобныя **грабяні** для часання льну.

Г. для расчэсвання выкарыстоўваюць і ў якасці музычнага інструмента — меладычнага ці рытмічнага. У першым выпадку паміж зубамі Г. замацоўваюць ліст тонкай паперы, лёгка кранаючыся якой вуснамі, выканаўца спявае мелодыю. Гукавыя ваганні, што пры гэтым узнікаюць, перадаюцца на паперу і, праходзячы паміж зубамі Г., узмацняюцца. Гучанне інструмента даволі чыстае, насычанае і своеасаблівае па тэмбру, афарбоўка якога залежыць ад таго, хто (жанчына ці мужчына) іграе на ім. Выкарыстоўваюць Г. у практыцы сольнага і ансамблевага музіцыравання як уласна інструментальнага (разам с гармонікам, скрыпкай і бубнам), так і вакальна-інструментальнага (для суправаджэння спеваў, напр., жартоўных песень, прыпевак). Пры выкарыстанні Г. як рытмічнага інструмента хутка соўгаюць па яго зубах палачкай, узнаўляючы рытмічныя фігуры, залежныя ад рытмічнай структуры мелодыі. Г. для расчэсвання валасоў служыць таксама сурдзінай пры ігры на скрыпцы.

*Г. М. Курыловіч, І. Дз. Назіна* (муз. інструмент).

**ГРЭ́БЛЯ**, дарожнае збудаванне, шлях, пракладзены ў нізкім, балоцістым месцы; тое, што і *гаць*.

**ГУБКА**, 1) мера асновы, палатна даўжынёй на *снаўніцу* (хатнюю сцяну). Лакальная назва гіба. 2) Высушанае цела губы-грыба для здабывання агню.

**ГУ́ДАВІЦКАЕ СВЯЦІЛІШЧА**, этнаграфічны аб'ект і, верагодна, помнік язычніцкага культу каля в. Гудавічы і в. Верхалес Чэрвеньскага р-на. Паводле будовы нагадвае аналагічныя помнікі смаленскіх крывічоў і Паўн. Букавіны, што дазваляе датаваць помнік канцом 1-га тысячагоддзя н. э. Размешчана на невысокім узгорку, які называюць Святая, або Мар'іна, Горка. Уяўляе сабой пляцоўку (52×53 м), абкружаную невысокім валам і ровам; уваход з З. У цэнтры пляцоўкі ляжыць камень з выявай, якая нагадвае след чалавечай ступні (захаваўся ў пашкоджаным выглядзе). Мясцовыя жыхары да апошняга часу ўшаноўвалі камень, лічылі, што гэта выява «следу маці божай» (ці святой Магдалены). Гэта дае падставу меркаваць пра перажытак ушанавання нейкага старажытнага жаночага бажаства. Ля каменя захаваўся архаічны каменны крыж; каля яго ставілі высокія ўшанавальныя крыжы (драўляныя, пазней металічныя), якія ўпрыгожвалі вышытымі ручнікамі, садзілі кветкі, рабілі ахвярапрынашэнні (кветкі, цукеркі і інш.). Пры раскопках ля каменя (на глыбіні 0,2—0,25 м) выяўлены сляды вогнішчаў. Помнік упершыню апісаны А. Ельскім у канцы 19 ст., у 1985—86 даследаваўся Э. М. Зайкоўскім. Прыблізна за 1 км на Пн ад Г. с. раней стаяў каменны *ідал* (стод) у выглядзе слупа з чалавечым тварам, які быў вядомы сярод насельніцтва пад назвай «Цар Давід» (не захаваўся). *Э. М. Зайкоўскі.*

**ГУ́ДЗЕВІЦКІ ЛІТАРАТУ́РНА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1965 пры Гудзевіцкай сярэдняй школе (Мастоўскі р-н). Адкрыты для наведвання 2.2.1968. Мае 11 экспазіцыйных залаў (пл. 546 м²), каля 12 тыс. экспанатаў (1988). Экспазіцыя пачынаецца з музея этнаграфіі — сялянскай хаты, у інтэр'еры якой прадметы хатняга ўжытку, прылады працы, с.-г. інвентар 19 — пач. 20 ст., (жорны, драўляная барана, саха, плуг, рэзгіны, склюд, цэбар, таўкач, дзежка, бойка, спарышы, міскі, глякі, сявенькі, кашы, апалушкі, начоўкі, лавы, калыска, куфар, стараж. каменны рукамыйнік, самаробныя цымбалы і інш.). У асобным будынку размешчаны музей лёну і нар. ткацтва. Тут паказаны лён на ўсіх фазах росту і апрацоўкі. Прадстаўлены посцілкі, дываны, ручнікі, вышываныя кашулі, кофты, фартухі, спадніцы, мужчынскія касцюмы, бекешы, буркі, світкі, экспанаты, зробленыя членамі школьнага гуртка нар. ткацтва. У музеі калекцыя гудзевіцкіх падвойных дываноў. У другім будынку музей нар. медыцыны, дзе сабрана больш за тысячу нар. рэцэптаў для лячэння хвароб пры дапамозе розных зёлак, прапалісу, мёду, крэменю і інш., матэрыялы пра мясцовых лекараў. У літаратурна-краязнаўчым музеі (асобны будынак) творы, рукапісы, успаміны, лісты, фотаздымкі бел. пісьменнікаў, матэрыялы пра бел. кампазітараў, мастакоў, артыстаў, касманаўтаў, грамадскіх дзеячаў. Экспануюцца творы бел. жывапісу, графікі, скульптуры 17—20 ст. Музей гісторыі Гудзевіцкай школы (адчынена ў 1863) размешчаны ў яе вестыбюлі. *А. М. Белакоз.*

**ГУ́ДЫ**, гудай, гудасы (літ. gudai, gudas), стараж. назва (экзаэтнонім) беларускамоўнага насельніцтва ўсх. Літвы і беларусаў сумежных тэрыторый. У гіст. крыніцах назва Г. і вытворныя тапанімічныя формы Гудзелі, Гудзішкі, Гудаўшчына, Гудалаўка, Гудоніс, Гудагай, Гудзенай і інш. вядомы з 15 ст. На думку даследчыкаў, геагр. арэал тапонімаў з коранем «гуд» акрэслівае старажытную кантактную зону бел. і літоўскага насельніцтва. *І. У. Чаквін.*



Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей (музей этнаграфіі).

**ГУЖАВЫ́ ТРА́НСПАРТ**, від сухапутнага транспарту, дзе ў якасці цягі выкарыстоўвалася рабочая жывёла. На Беларусі асноўнай цяглавай сілай здаўна быў конь, у паўд.-зах. частцы — і вол. Жывёлу запрагалі ў вазы з дапамогай вупражы (гл. *Запрэжка*). Канструкцыя і знешняя форма Г. т. адлюстроўвалі сезонныя ўмовы, функцыянальнае прызначэнне, сацыяльную прыналежнасць і рэгіянальныя асаблівасці вытворчай культуры. У залежнасці ад пары года сродкі Г. т. падзяляліся на колавыя, або летнія (*калёсы, мажара*, фургон, тарантас, роспускі, *брычка, карэта, бяда* і інш.), і палазныя, або зімнія (простыя *сані, развалкі, кары, вазок*, падсанкі). Паводле функцыянальных асаблівасцей тыя ж сродкі падзяляюцца на грузавыя і выязныя (пасажырскія). Выязныя экіпажы (карэты, брычкі, фаэтоны, фурманкі, дыліжансы) былі ва ўласным карыстанні і на рэгулярных паштовых маршрутах. Г. т. на Беларусі быў асноўным відам сухапутнага транспарту са старажытных часоў і да 1880-х г. і адпавядаў тагачаснаму ўзроўню вытворчых сіл і стану шляхоў зносін. У сельскай гаспадарцы адыгрываў істотную ролю да сярэдзіны 20 ст. У наш час Г. т. выкарыстоўваецца для перавозкі малагабарытных і сыпкіх грузаў на кароткія адлегласці пераважна ў кааператыўных і асабістых гаспадарках. *В. С. Цітоў.*

**ГУЖЫ́**, скураныя ці вераўчаныя петлі, замацаваныя ў хамуце, якімі пры запрэжцы хамут злучаюць з дугой і аглоблямі.

**ГУКА́ННЕ ВЯСНЫ́**, старажытны язычніцкі абрад; першае па часе веснавое свята. У асобных месцах пачыналася 1 сакавіка с. ст. (на хрысціянскае свята *Аўдакеі*), усюды — з 25 сакавіка на благавешчанне). Удзельнікі абраду выходзілі на высокае месца (горку, бераг ракі, возера, куды звычайна збіралася моладзь), раскладалі вогнішчы (на Магілёўшчыне палілі ўсякае смецце — ачышчалі зямлю, на Гомельшчыне запаленае кола на плыце пускалі па рацэ — водгалас культу сонца), спявалі вяснянкі, вадзілі *карагоды*, якія выконвалі магічную функцыю («Дзе карагод ходзіць, там жыта родзіць»). У свята Г. в. пранік і культ расліннасці: ушанаванне бярозы (звычай кідаць на бярозу кастрыцу і інш.). Сляды аграрна-магічнай функцыі хлеба захаваліся і ў печыве, якое рабілі ў выглядзе птушак (жаўрукоў, буслоў; гл. *Галёпы*). З хлебам звязаны і звычай закопваць у зямлю гаршчок кашы — своеасаблівая ахвяра

11. Зак. 566

зямлі. Сярод інш. дзеянняў абрадавага характару — гушканне на арэлях, звычай «заскокванння», «затанцоўвання» вясны (на Салігоршчыне), абход двароў. Пастухова абрад Г. в. ператварыўся ў прыгожае свята, забаву моладзі і ў такім выглядзе дайшоў да нашых дзён. *Г. А. Барташэвіч.*

**«ГУ́ЛА»**, народная гульня. Гульцы дзеляцца на дзве каманды — дружыны. Кожная дружына выбірае «вялікага», ці «выбранніка» — найбольш дужага гульца, які кідае ў бок праціўніка гулу (каменнае ці жалезнае ядро, у некаторых месцах — кола воза). Дружына праціўніка як мага раней павінна спыніць яе. З таго месца, дзе гула спынена, «выбраннік» другой каманды кідае яе назад. Перамагае тая дружына, якая перакіне гулу за ўмоўленую мяжу.

**ГУМНО́**, гаспадарчая пабудова для працяглага захоўвання і апрацоўкі неабмалочанай збажыны, саломы, сена. У помніках усх.-слав. пісьменства слова «гумно» фіксуецца з 11 ст. Спачатку гэта было месца, дзе жывёлай «мялі» (вымалочвалі) зерне. І цяпер у некаторых раёнах Мінскай, Віцебскай, Гродненскай абл. так называюць пляцоўку для малацьбы ў сярэдзіне Г. або каля яго. Пазней тэрмін пераасэнсаваўся. У стараж.-бел. помніках 15—17 ст. ён ужываўся як агульная назва ўсіх будынкаў для захоўвання збожжа і сена. На працягу 18—19 ст. слова «Г.» ў большасці раёнаў Беларусі замацавалася за збудаваннем для захоўвання і абмалоту збожжа, аднак уніфікацыя тэрміна не ахапіла ўсёй тэр. рэспублікі. У Віцебскай і на Пн Магілёўскай абл. Г. называюць токам, у большай частцы раёнаў Брэсцкай і на З Гомельскай абл.— клуняй, у сумежных з Латгаліяй раёнах — рыгай. Канструкцыйнымі асаблівасцямі і знешняй формай Г. адрозніваецца ад інш. гаспадарчых пабудоў сялянскага двара. Звычайна яго ставілі ў канцы сядзібнага ўчастка, па магчымасці выносілі за яго межы для проціпажарнай бяспекі. Г. без сушні (*асеці*) магло непасрэдна прымыкаць да асноўнага комплексу пабудоў. У плане яно мела форму мнагагранніка, квадрата ці падоўжанага прамавугольніка шырынёй 5,5—18,5 м, даўжынёй 7—23 м. Нізкія сцены і апушчаная амаль да зямлі страха надавалі яму прысадзісты выгляд.

На Беларусі, акрамя Зах. Палесся, Г. найчасцей будавалі на сохах. Складаную апорную сістэму страхі падтрымлівалі 4—6—8 сох вышынёй да 6,5 м. Іх ставілі папарна двума радамі. Раней сустракаліся Г. з сохамі ў адзін рад. На ПдЗ Брэстчыны страхі рабілі на кроквах. Сохі злучаліся шлегамі («кладзь», «правілы») і папярочнымі бэлькамі, на якіх ставілі дзядкі («чапелькі», «казлы») — скрыжаваныя накшталт сталюг абчасаныя жэрдкі, звязаныя зверху цэнтральнай шлегай — асновай будучага вільчыка. Ваколсох (на пэўнай адлегласці ад іх) ставілі зруб. Бярвёны злучалі вуглом «з астаткам», на прагонах сцен праз кожныя 2,5—3 м ставілі шулы. Бярвёны запускалі ў закід і дзеля вентыляцыі не падганялі шчыльна адно да аднаго. На вільчыкавую шлегу навешвалі «кручча» (доўгія жэрдкі з



**Гумно.** Вёска Быстрыца Астравецкага раёна.

крукамі), ніжнія канцы якога апускаліся на верхні вянок сцяны. Да кручча прывязвалі паплёт (тонкія жэрдкі). Крылі Г. «пад колас» (каласамі ўніз) або «пад шчотку», ці «пад грабёнку» (каласамі ўверх). Стрэхі былі 4-схільныя, радзей — з усечаным зверху франтонам і 2-схільныя. Вароты ў Г. рабілі з тарца або ў сярэдзіне падоўжнай сцяны. Часткі ўнутранай прасторы Г. абапал току служылі для складання неабмалочанага збожжа і называліся застаронкамі, старанамі. Часта ток ад застаронка аддзяляўся невысокім, у некалькі бярвёнаў, зрубам — прыстаронкам. Будавалі Г. двух тыпаў: з сушнямі (найбольш пашыраны ў Магілёўскай, Віцебскай, на Пн Гомельскай і часткова Мінскай абл.) і без сушняў (у паўд. раёнах Мінскай, амаль па ўсёй Брэсцкай і Гродзенскай абл.). Тут снапы прасушвалі на азяродах і малацілі сырамалотам. Лічылася, што такая салома больш спажыўная для скаціны. *У. С. Гуркоў.*

**ГУРКО́Ў** Уладзімір Сяргеевіч (н. 2.1.1931, в. Шыркі Мсціслаўскага р-на), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. навук (1975). Чл. КПСС з 1953. Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1958). З 1952 працаваў у органах дзярж. бяспекі, з 1960 сакратар абкома прафсаюза работнікаў асветы, вышэйшай школы і навуковых устаноў, з 1964 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1976 старшы навуковы супрацоўнік). Асноўныя даследаванні ў галіне матэрыяльнай культуры — пасяленні, жыллё, пчалярства. Аўтар манаграфій «Сучасная беларуская вёска» (1975) і «Занятак спрадвеку высакародны» (1987; з С. Цярохіным; пра пчалярства), кн. «Бортніцтва на Беларусі» (1980; з С. Цярохіным), раздзелаў «Пасяленні», «Тыпы забудоў», «Гаспадарчыя пабудовы», «Сучаснае сялянскае жыллё», «Змены жыллёвага фонду гарадоў БССР» у калектыўных манаграфіях «Беларускае народнае жыллё» (1973) і «Этнічныя працэсы і лад жыцця» (1980). *В. С. Семянкоў.*

**ГУ́РСКІ** Антон Іванавіч (н. 14.1.1936, в. Лугавая Капыльскага р-на), беларускі савецкі фалькларыст. Канд. філалагічных навук (1978). Пасля заканчэння Мінскага педагагічнага ін-та (1959) працуе ў Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з 1979 старшы навуковы супрацоўнік. Даследуе загадкі, песні, легенды, паданні. Аўтар манаграфіі «Зімовая паэзія беларусаў» (1980), арт. «Дыяменты народнай мудрасці» (1966), «Беларускія зімовыя карагодныя песні» (1977), «Беларускія зімовыя велічальна-віншавальныя песні» (1978). Адзін з аўтараў даследаванняў «Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць» (1967), «Праблемы сучаснага беларускага фальклору» (1969). Складальнік тамоў зводу «Беларуская народная творчасць»: «Зімовыя песні: Калядкі і шчадроўкі» (1975), «Загадкі» (1972) і «Легенды і паданні» (1983, абедзве з М. Я. Грынблатам), кніг «Дрэва кахання» (1980) і «Сакрэт шчасця» (1986). За ўдзел у складанні зводу «Беларуская народная творчасць» Дзярж. прэмія БССР 1986. *В. С. Семянкоў.*

**«ГУСА́РЫ»**, традыцыйны танец, блізкі да карагода. Лакальная назва «Гусарыкі». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп павольны. Выканаўцы ходзяць, узяўшыся за рукі і спяваючы песню, ствараюць розныя фігуры: круг, вароты, заплецені. Зафіксаваны ў Магілёўскай вобл. На нар. аснове ў ансамблі «Харошкі» створаны сцэнічны танец. *Ю. М. Чурко.*

**«ГУСАЧО́К»**, традыцыйны танец, блізкі да карагода. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп павольны. Танцоры паказваюць рухі гусей за важаком. Адсюль — нетаропкі, з боку ў бок крок, звілістыя

лініі, спіралі ў малюнку. Часта суправаджаецца прыпеўкамі:

Гэй, гэй, гусачок,
Чы харошы каснычок?
Гэр, гэр, гуска,
Чы хароша хустка?

Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гомельскай і Магілёўскай абласцях. *Ю. М. Чурко.*



Гумно. Вёска Гвоздавічы Пастаўскага раёна.



Гэблі: калёўкі, гэблік і баран.

**ГУ́СЛІ**, тэрмін, пашыраны ў многіх славянскіх народаў для вызначэння розных, пераважна струнных, музычных інструментаў. Лакальныя назвы гусле, гусла, гусліца. Яго шматзначнасць некаторыя вучоныя тлумачаць паходжаннем слова ад санскрыцкага кораня «гу», звязанага з паняццем гучання наогул. У старажытнарускай літаратуры тэрмін сустракаецца з 11 ст.; Г. упамінае ў сваіх «Словах» Кірыла Тураўскі (12 ст.). Аналіз друкаваных крыніц 16—17 ст. («Псалтыр» Ф. Скарыны, «Лексіс...» Л. Зізанія, «Лексікон славенароскі» П. Бярынды, «Сінаніма славенароская») паказвае, што на той час тэрмін «Г.» ўжываўся як родавае вызначэнне струнных інструментаў — арфы, цытры, скрыпіцы, лютні. Паводле даных лексікалогіі, этнаграфіі, інструментазнаўства, а таксама помнікаў вуснай нар. творчасці, у 19—20 ст. у некаторых раёнах Магілёўскай, Віцебскай і Мінскай абл. Г. называлі і інструменты струнныя (цытра, скрыпка) і духавыя (адзіночныя і парныя свістковыя дудкі, губны гармонік). Бясспрэчных доказаў бытавання на Беларусі струннага шчыпковага інструмента тыпу рускіх крылападобных Г. не выяўлена. *І. Дз. Назіна.*

**ГУ́СЬКІ»**, народная гульня. На краі круглай ледзяной пляцоўкі дыяметрам 10—15 м выбіваюць «гнёзды» (ямкі дыяметрам 25—30 см). Удзельнікі гульні маюць калкі (палкі даўжынёю 1—1,2 м, раздвоеныя на канцы) і гуські (цуркі памерам 12×4 см). Кожны па чарзе кладзе гусёк у цэнтр пляцоўкі. Па сігналу астатнія гульцы ад сваіх «гнёздаў» бягуць да цэнтра і ўдарамі калкоў стараюцца загнаць гусёк у сваё «гняздо». Перамагае той, хто загоніць больш гуськоў.

**ГУ́ТА**, навес, хлеў, хата, у якой ёсць печ для якога-небудзь вырабу; даўнейшая назва шклозавода.

**ГУ́ШКАЛКА**, прыстасаванне, на якім гушкаюцца для забавы; тое, што і *арэлі.*

**ГЭ́БЛІ**, стругальныя інструменты, што выкарыстоўваюць у сталярным, цяслярскім, бандарным рамёствах (гл. *Дрэваапрацоўчыя рамёствы*). Складаюцца з драўлянага бруска і замацаванага ў ім завостранага жалезнага ляза. У залежнасці ад канструкцыі (памераў і формы бруска, профілю ляза) і спецыялізацыі прымянення дзеляцца на некалькі відаў: гэблік звычайны (рубанак), гэбель (фуганак, спуск ці спуст), баран (мядаведка), шархебель (шаршэбка), калёўка (адборнік, адкоснік). Кожны з іх выкарыстоўваюць для пэўных стругальных работ: гэблік — для роўнага загладжвання паверхні драўляных вырабаў адносна невялікіх памераў (шырока ўжываецца ў сталярстве); гэбель (спуск) — для больш дакладнай і тонкай апрацоўкі драўніны (бандарных клёпак, аконных рам, мэблі); баран — для апрацоўкі вялікіх брусоў, дошак (меў дзве ручкі, з ім працавалі адначасова 2 чалавекі); шархебель — для пярвічнай апрацоўкі драўніны да неабходнай таўшчыні і для надання паверхні ўвогнутага профілю (меў авальную форму вастрыя ляза і ніжняга боку бруска); калёўка — для фігурнай апрацоўкі дошак (з мэтай іх узаемнага дапасавання), налічнікаў акон, аконных рам, плінтусаў і інш. У пар. практыцы з'явіліся пазней *стругаў* і распаўсюдзіліся праз цэхавае рамяство. *В. С. Цітоў.*



**ДАБРАВО́ЛЬСКІ** Уладзімір Мікалаевіч [30.7(11.8). 1856, сяло Краснасвецкае Пачынкаўскага р-на Смаленскай вобл. — 7.5.1920], беларускі і рускі этнограф, фалькларыст, краязнавец, лексікограф. Скончыў Маскоўскі ун-т (1880). Працаваў выкладчыкам у Смаленскай жаночай гімназіі (1880—83). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі чытаў лекцыі па этнаграфіі і гісторыі тэатра ў Бел. нар. ун-це (Масква), Віцебскім ін-це нар. асветы, Смаленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага ін-та. Збіраў і запісваў нар. песні, казкі, легенды, паданні, прыказкі і прымаўкі Смаленшчыны, вывучаў нар. тэатр, абрады, святы, вераванні. Збіраў прадметы побыту (дасылаў у Рускае геагр. т-ва). Друкаваўся ў час. «Живая старина», «Этнографическое обозрение» і інш. Аўтар фундаментальнай працы «Смаленскі этнаграфічны зборнік» (ч. 1—4, 1891—1903), арт. «Прыказка і загадка» (1898), «Смерць, пахаванне і галашэнні» (1900), «Кросны» (1902), «Адрозненні ў вераваннях і звычаях беларусаў і велікарусаў Смаленскай губерні» (1903), «Юр'еў дзень у Смаленскай губерні» (1908), «Нячыстая сіла ў народных вераваннях» (1908), «Абрады і павер'і, якія датычацца хатніх і палявых работ сялян Смаленскай губерні» (1909), «Смаленскі абласны слоўнік» (1914) і інш. Разам з М. Дз. Бэрам запісаў больш за 500 мелодый сабраных ім песень (адшуканы 182 запісы, 9 напеваў балад упершыню апублікаваны ў кн. «Балады»; кн. 2, 1978). Яго этнагр. працы высока ацэнены У. І. Леніным.

*Літ.* Шлюбскі А. Этнаграфічная дзейнасць Дабравольскага. Мн., 1928; Дмитриев В. В. В. Н. Добровольский: (Краткий биографический очерк). Смо-



У. М. Дабравольскі.



**Давыд-гарадоцка-тураўскі строй.** Адзенне жанчын-мяшчанак. Канец 19 ст. Горад Давыд-Гарадок (Столінскі раён).

ленск, 1930; Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964; Акунькова А. М. Жыццё і навукова-педагагічная дзейнасць У. М. Дабравольскага//Этнаграфічны зборнік. Мн., 1975; Яе ж. Беларуская казка ў запісах У. М. Дабравольскага//Беларуская фалькларыстыка. Мн., 1980; Романов Ю. С. Жизнь и научная деятельность В. Н. Добровольского//Материалы по изучению Смоленской области. М., 1970. Вып. 7; Иванова А. И. Деятельность В. Н. Добровольского в годы Советской власти. Там жа; Сидельников В. Смоленский этнограф и краевед В. Н. Добровольский//Смоленский альманах. 1951. Кн. 9.

*А. М. Хрушчова.*

**ДАВЕ́ДКІ,** передвясельны абрад. Лакальныя назвы выведы, допыты, пярэпыты. Перад *сватаннем*, каб быць упэўненым у згодзе дзяўчыны і яе бацькоў прыняць сватоў, бацькі хлопца пасылалі да дзяўчыны з хлебам і соллю старую сваячку або каго-небудзь з іншых блізкіх пажылых людзей; часам адпраўляліся маці або сам хлопец. Д. рабіліся патаемна, каб у выпадку адмовы дзяўчыны пра гэта ніхто не ведаў і не кпіў з хлопца. У Д. маглі ехаць і сваты, але без гарэлкі і падарункаў. Д. характарызаваліся гал. чынам бытавымі звычаямі, абрадавыя элементы ў іх прадстаўлены слаба і праяўляліся ў абмене хлебам, у асобных умоўных формулах алегарычнага характару.

*Л. А. Малаш.*

**ДАВЫД-ГАРАДО́ЦКА-ТУ́РАЎСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Усходняга Палесся. Бытаваў у асяроддзі мяшчан невялікіх гарадоў (Тураў, Давыд-Гарадок, Столін), мястэчак і буйных вёсак у 19 — пач. 20 ст. Рэзка вылучаўся сярод іншых строяў ускладненымі сілуэтамі жаночага касцюма з арыгінальнымі галаўнымі ўборамі замужніх жанчын. У вырабе і аздабленні, як і ў адзенні гараджан, шырока выкарыстоўвалі мануфактурныя тканіны, каштоўныя ўпрыгожанні, па-мастацку апрацаваную скуру і інш.

Аснову жаночага летняга гарнітура складалі кашуля, спадніца, гарсэт (або куртка), фартух, пояс. Кашулю шылі з кужалю або белага «сарвету» (бавоўнянай фабрычнай тканіны), з шырокім адкладным каўняром. У гарадчанак яна сціпла або зусім не аздаблялася, у тураўлянак аздаблялася на рукавах і каўняры раслінным або раслінна-зааморфным арнаментам, вышытым крыжыкам у чырвона-чорнай гаме. Спадніцу-андарак шылі з дамацканага гладкафарбаванага цёмна-сіняга або чырвона-бурачковага сукна, спадніцу-сукню — з фабрычнай зялёнай, чорнай ці цёмна-сіняй шарсцянкі («бостынь», «саят»), па нізу нашывалі стужкі або тасёмкі галуну. Гарсэт (кабат, шнуроўка) з чырвонага, фіялетава-сіняга ўзорыстага або гладкафарбаванага атласу, саціну ці ўзорыстай парчы; часта прышываўся да спадніцы (у выглядзе ліфа). У халоднае надвор'е паверх гарсэта або замест яго апраналі кароткую з валенага сукна куртку з рукавамі. Фартух 1-полкавы з фабрычных тканін цёмных тонаў, аднаколерны або са стракатым набіваным раслінным узорам. Гарсэт, спадніцу і фартух падпяразвалі шырокім поясам, выплеценым з чырвона-бардовых або вытканым з разнаколерных нітак (канцы пояса завязвалі ззаду). Тураўлянкі завязвалі шырокі, цвёрды пояс з залацістай парчы-галуну («галёніна»), які зашпільваўся на гаплікі. Экзатычны і падкрэслена самавіты вобраз жаночага касцюма стваралі арыгінальныя галаўныя ўборы *галовачка*, падушачка. Жанчыны насілі масіўныя нагрудныя ўпрыгожанні — чаканеныя з латуні вялікія крыжы мясцовай работы, пацеркі з натуральных камянёў і металу, абразкі, а таксама пярсцёнкі. Мужчынскае адзенне, блізкае да адзення гараджан, вызначалася высокім кравецкім майстэрствам, стрыманым аздабленнем (вышыўка шнуром, аплікацыя, нашыўка з футра і інш.). Летні гарнітур складаўся з кашулі (часцей запраўленай у нагавіцы), нагавіц, камізэлькі, галаўны ўбор — капялюш, зімой разнастайныя варыянты магеркі. Верхнім мужчынскім і жаночым адзеннем былі кажухі, курткі, шэрыя, цёмна-карычневыя світы, кроеныя з адразной спінкай, адкладным каўняром і выкладамі. Вопратку аздаблялі нашыўкамі чырвонага ці сіняга сукна, шнуром.



**Давыд-гарадоцка-тураўскі строй.** Адзенне сялян. Пач. 20 ст. Столінскі раён.

*М. Ф. Раманюк.*

**ДАВЫ́Д-ГАРАДО́ЦКІЯ КУ́ФРЫ,** вырабы народных майстроў з г. Давыд-Гарадок і навакольных вёсак Столінскага р-на. Промысел быў пашыраны ў 19 — 1-й пал. 20 ст. Паводле канструкцыі куфар — завужаная знізу дашчаная скрыня на 4 металічных ці драўляных колцах, з плоскім векам на заве-

сах, якое выступае за бакавыя сценкі, з уразным ці накладным замком з акоўкай і 2 ручкамі па баках. Фарбавалі ў чырвона-вохрысты колер. Гладкія палосы бляхі, звычайна прафіляваныя, аздаблялі вуглы куфра, край века. Шырокія жалезныя палосы, што падзялялі плоскасць пярэдняй сценкі куфра на 4 часткі, заканчваліся дэкаратыўнымі стылізаванымі выявамі галоў птушак, змей або звычайным закругленнем. Цэнтр. палоска з адтулінай для ключа размяшчалася вертыкальна, бакавыя — з невялікім нахілам. Прамежкі паміж імі запаўняліся жалезнымі кароткімі палоскамі, накладкамі ў выглядзе 4-пялёсткавых пальметак, рэльефнымі круглымі плешкамі цвікоў. Часам куфры аздаблялі па цэнтры пярэдняй сценкі размалёўкай раслціннымі кампазіцыямі ў выглядзе галінак з кветкамі. Сярод найбольш вядомых майстроў І. Дземідовіч, І. Паддубны, П. Шышко. *М. Ф. Раманюк.*

**ДАЁНКА**, д а й н і ц а, бандарная пасудзіна на 6—10 л, крыху шырэйшая ў верхняй частцы. Выкарыстоўвалася ў час даення кароў. Рабілі Д. з хваёвых, радзей з дубовых ці кляновых клёпак. Адна падоўжаная клёпка ўтварала ручку, у клёпцы насупраць рабіўся літок (губа, рыльца). Пры даенні кароў у полі выкарыстоўвалася Д. з почапкай (восілкай). *В. С. Цітоў.*

**ДАЖБОГ** (стараслав. Д а ж ь - б о г), язычніцкае бажаство ўсходніх славян, бог сонца, сын *Сварога*. Уяўляўся як жыватворная, дабратворная істота, якая дае цяпло, спрыяе ўрадлівасці палёў, дабрабыту людзей. У Стараж. Русі Д. пакланяліся (яго ідал быў пастаўлены побач з Перуном і інш. багамі на капішчы ў Кіеве). Пасля ўвядзення хрысціянства ўяўленне аб Д. паступова знікла. Як сімвалічны вобраз трапляецца ў стараж.-рускай літаратуры. У «Слове пра паход Ігаравы» Д. выступае як сімвалічны продак і апякун стараж.-рускага народа, названага ў гэтым творы ўнукам Д. *М. Ф. Піліпенка.*

**ДАЖЫНКІ**, старадаўняе народнае свята, звязанае з заканчэннем жніва. Суправаджаліся нар. абрадамі, танцамі, песнямі. Дажынкавыя абрады былі скіраваны на тое, каб аддзякаваць «духам нівы» за хлеб, захаваць яе плён на наступны год. Дажаўшы жыта, жнеі ўпрыгожвалі апошні сноп кветкамі і стужкамі, плялі вянкі з каласоў і палявых кветак, з песнямі ішлі ў вёску. Зайшоўшы ў двор, дажынкавая *талака* перадавала апошні сноп гаспадару, які запрашаў жнеі за гасцінны стол. У кожнай сям'і на Д. гатавалі шчодрае частаванне. Сярод абрадавых страў — бліны з маслам і сытой, крупяная каша (для таго, каб на наступны год урадзіла добрае жыта). Дажынкавыя песні спявалі ў канцы жніва, калі спраўлялі абрад *«завіванне барады»*, па дарозе жнеі да хаты, у двары гаспадара і на дажынкавым застоллі. Ім уласціва радаснае, мажорнае гучанне. Акрамя абрадавых момантаў, адлюстроўвалі сам характар цяжкай жніўнай працы, выказвалі радасць ад здабытага ў поце плёну, усхваялялі і ўзвялічвалі гаспадара, работніц-жней. Асобныя застольныя дажынкавыя песні мелі жартаўлівы характар. На Пн Беларусі Д. спраўлялі двойчы: малыя пасля сканчэння жытняга жніва, вялікія пасля таго, як зжыналі і яравыя. У наш час Д. ператварыліся ў *свята ўраджаю.* *А. С. Ліс.*

**ДАЙНОВА**, назва аднаго з заходнябалцкіх плямён, якое разам з *палякссамі* і *ятвягамі* складала адзіны племянны саюз (канец 1-га тысячагоддзя да н. э.— 13 ст.). Насялялі тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі р. Нараў. У 13 ст. іх землі падвергліся нашэсцю Тэўтонскага ордэна. Частка насельніцтва была сілай перасялена ў Прусію, частка мігрыравала на тэр. Польшчы, Паўд.-Зах. Літвы і Зах. Беларусі. Асіміляваны славянамі і літоўцамі. Археалагічныя помнікі Д.— каменныя курганы. Сляды пражывання Д. на землях Беларусі захаваліся ў шматлікіх тапонімах — Дзейнова, Дайнава, Дайноўка, Дайнуўка і інш., якія лака-



Даёнка.

лізаваны ў міжрэччы Віліі і Верхняга Нёмана і ў раёнах Валожына, Івянца, Радашковіч, Гродна, Слоніма. *І. У. Чаквін.*

**«ДАКУМЕНТЫ МАСКОЎСКАГА АРХІВА МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ»** (ДМАМЮ), зборнік дакументаў і матэрыялаў па сацыяльна-эканам. і палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага 15—16 ст. Выдадзены М. В. Доўнар-Запольскім (М., 1897). Уключае дакументы з кніг Метрыкі Вял. кн. Літоўскага пра раздачу дзярж. зямель, вёсак, маёнткаў асобным феадалам («Кніга данін»), інвентары і апісанні Кобрынскай і Гродзенскай эканомій, Берасцейскага і Пінскага старостваў, Пінскага і Клецкага княстваў, Радашковіч, Оршы і інш.; матэрыялы пра дзейнасць вальных соймаў. Змешчаны матэрыялы па стараж. этнаграфіі Беларусі, звесткі пра гаспадарча-вытворчую дзейнасць сельскага і гарадскога насельніцтва, землекарыстанне і землеўладанне, паселішчы і жыллё, характар забудоў вёсак і гарадоў, колькасць насельніцтва, іх павіннасці і падаці, адзенне, ежу, сямейныя адносіны, грамадскі побыт і інш. Дакументы надрукаваны на мове блізкай да арыгінала (бел., часткова польскай). У зборніку прадмова складальніка, паказальнікі імянны і геагр. назваў. *І. У. Чаквін.*

**ДАЛЕНГА-ХАДАКОЎСКІ** Зарыян Якаўлевіч (сапр. Ч а р н о ц к і Адам; 24.12.1784, каля в. Гайна Лагойскага р-на — 17.11.1825), славяназнавец, пачынальнік беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай археалогіі, фалькларыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі. Чл.-кар. варшаўскага Т-ва сяброў навук (1819), член пецярбургскага Вольнага т-ва аматараў расійскай славеснасці (1819), маскоўскага Т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх (1820). Працаваў у Мінску прыватным адвакатам. У 1814—18 даследаваў пытанні славяназнаўства ў бібліятэках Крамянецкага ліцэя і апекуна Віленскай навучальнай акругі А. Чартарыйскага ў Пулавах. У мінскіх архівах вывучаў стараж. бел. акты і граматы. Падарожнічаў па Польшчы, Галіцыі, Палессі. Даследаваў гарадзішчы ў Полацку, Віцебску, Тураве, Бабруйскім пав., каля Брэста, Гомеля, Магілёва, в. Старое Сяло Віцебскага пав., запісваў фальклор, мясцовыя дыялекты, абрады. У 1820—21 збіраў і вывучаў археалагічны, дыялектны, этнагр. і фальклорны матэрыял на Пн Расіі. Найбольш значная праца — «Пра славяншчыну да хрысціянства» (1818), дзе ўпершыню спрабаваў апісаць стараж.-слав. побыт, культуру і нар. творчасць у дахрысціянскі перыяд, намеціў праграму комплексных даследаванняў слав. і суседніх народаў. У «Даследаваннях адносна рускай гісторыі» (1819) крытыкаваў некаторыя палажэнні «Гісторыі дзяржавы Расійскай» М. Карамзіна, удакладніў факты, звязаныя з гісторыяй Беларусі (у наступных выданнях Карамзін улічыў іх). У «Праекце вучонага падарожжа па Расіі для вытлумачэння старажытнай славянскай гісторыі» (1820) і «Гістарычнай сістэме Хадакоўскага» (апубл. 1838) абгрунтаваў археалагічную тэорыю гарадзішчаў, прынцыпы збору фальклору і дыялектнай лексікі, упершыню ў славістыцы паказаў ролю тапанімікі для гіст. даследаванняў, склаў рэестр агульнаслав. тапонімаў (у т. л. беларускіх), вызначыў тэрыторыю пашырэння бел. мовы. Большасць яго прац не апублікавана: збор бел. (каля 500) і рускіх песень, запісы замоў, загадак, слоўнікі, матэрыялы па слав. этнаграфіі, дыялекталогіі, тапаніміцы, археалогіі. Фальклорная спадчына Д.-Х.— самы багаты збор твораў слав. нар. паэзіі таго часу і па колькасці запісаў, і па рэгіёну збіральніцкай дзейнасці. Гэта першая спроба сістэматычнага, усвядомленага

запісвання (з элементамі навук. паспартызацыі) слав. фальклору ў яго жанравай разнастайнасці. Яго навуковая і збіральніцкая дзейнасць была ўзорам і праграмай для навукова-літаратурных аб'яднанняў Беларусі, Украіны, Польшчы і Расіі. Многія славяназнаўчыя праблемы (слав. этнагенеза, прарадзіма славян), вылучаныя ім, актуальны і ў наш час.

*Тв.:* O Słowiańszczyźnie przed chrześcijaństwem, oraz inne pisma i listy. Warszawa, 1967; Śpiewy słowiańskie pod strzechą wiejską zebrane. Warszawa, 1973; Українські народні пісні в записах Зоріана Доленги-Ходаковського. Київ, 1974.

*Літ.:* Rawita-Gawroński F. Zorian Dołęga-Chodakowski, jego życie i praca. Lwów, 1898; Maślanka J. Zorian Dołęga-Chodakowski. Wrocław, 1965; Малаш-Аксамитова Л. А. Доленга-Ходаковский (Адам Чарноцкий) и его наследие // Lud. Wrocław, 1967. Т. 51, sz. 1; Я е ж. У пошуках фольклорних збірників Доленги-Ходаковського // Народна творчість та етнографія. 1970. № 4.

*Л. А. Малаш.*

**ДАМАВІ́К,** вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў. Лакальныя назвы хатнік, гаспадар. На Беларусі яго ўяўлялі ў выглядзе старога чалавека ў белай вопратцы, з сівой барадой і доўгімі валасамі, які жыў у хаце (пад печчу ці за печчу — падпечнік, запечнік) або ў сенцах, каморы, клеці.

Паводле павер'яў у кожнай хаце (сям'і) быў свой Д. (увасабляў памерлага гаспадара — апекуна патрыярхальнай сям'і), які нібыта ахоўваў дом, маёмасць, клапаціўся пра гаспадарку (запальваў агонь, прасушваў збожжа ў клеці, даваў корм коням), назіраў за сямейным побытам, а тых, хто быў вінаваты ў сямейных сварках, нядбайна вёў гаспадарку, караў (шкодзіў жывёле і інш.). Прымхлівыя людзі імкнуліся задобрыць Д.: у памінальныя і святочныя дні яго гукалі да стала, «частавалі» лепшымі стравамі, звярталіся з просьбай, каб не рабіў шкоды. Рэлігійнае значэнне вобраз Д. страціў у канцы 19 — пач. 20 ст. і знайшоў адлюстраванне ў бел. фальклоры (пераважна ў былічках). *М. Ф. Піліпенка.*

**ДАМАВІ́НА,** спецыяльная скрыня, у якую кладуць нябожчыка для пахавання; труна.

**ДАМА́ЧАЎСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Заходнім Палессі. Бытаваў у ваколіцах г. п. Дамачава, на ПдЗ Брэсцкага і Маларыцкага р-наў (уздоўж р. Буг), на тэр. Польшчы (ваколіцы г. Уладава) і ў паўн.-зах. р-нах Валынскай вобласці.

Жаночы касцюм складаўся з кашулі, спадніцы-рабака, фартуха, гарсэта. Кашуля мела шырокі (12—15 см) адкладны каўнер, вышыты па краях. Аздаблялася малінавым з украпаннямі чорнага арнаментам гладкіх пункцірных палос на плечавой устаўцы, верхняй і ніжняй частках рукава. Ніжні ўзорысты шляк рукава дамінаваў над верхнімі палосамі арнаментам зорак, крыжыкаў, зігзагаў і інш. Спадніцу і фартух (1-полкавы) шылі з аднолькавай па якасці і каларыстычна-арнаментальным вырашэнні дамаатканай паўшарсцяной ці льняной тканіны, прасавалі ў буйныя складкі. Усё поле спадніцы запаўнялі чырвоныя, зялёныя, белыя, блакітныя, чорныя падоўжныя ці папярочныя палосы. Неад'емнай часткай касцюма дзяцей, дзяўчат і падлеткаў быў гарсэт (гарсэт-безрукаўка і гарсэт з рукавамі — кабат). Жаночыя гарсэты шылі з блакітнай тонкай шэрсці фабрычнага вырабу, спераду багата аздаблялі разнаколернымі тасёмкамі, стужкамі, гузікамі, дэкаратыўнай строчкай. Прасцей былі гарсэты з валенага (лямцаванага) дамаатканага цёмна-карычневага сукна. Галаўны ўбор замужніх жанчын — чырвоны каптур (з бакавымі вушкамі і зубцом над ілбом), бачны край якога аздаблялі карункамі, залацістай тасьмой. Паверх каптура накладалі згорнутую ў валік накрухмаленую пярэстую крамную хустку. Мужчыны насілі белую кашулю з стаяча-адкладным накрухмаленым каўняром, падперазаную вузкім тканым поясам, карычнева-шэрыя нагавіцы і гарсэт з рукавамі ці без рукавоў (аздаблялі вітым і плеценым коскай разнаколерным шнурам і тасьмой). На галаву надзявалі саламяныя капелюшы з чорнай стужкай. *М. Ф. Раманюк.*



**Дамачаўскі строй.** Святочныя ўборы дзяўчат і маладых жанчын. 1910-я г. Вёска Чэрск Брэсцкага раёна.

**ДАМБАВЕ́ЦКІ** Аляксандр Станіслававіч (1840— пасля 1914), краязнавец і грамадскі дзеяч. У 1872—93 магілёўскі губернатар, з 1893 сенатар. Ініцыятар выдання і рэдактар калектыўнай працы «Вопыт апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфічных, прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, вучэбных, медыцынскіх і статыстычных адносінах...» (кн. 1—3, Магілёў, 1882—84), дзе дадзена характарыстыка асноўных заняткаў насельніцтва, матэрыяльнай і духоўнай культуры жыхароў Магілёўшчыны. Змешчана каля 500 калядных

(зімовых), веснавых, летніх, вясельных і рэлігійных песень. Апісаны абрады вяселля, хрэсьбін, пахавання, памінак, нар. святы і звычаі,дажынкі, талака, розныя гульні, павер'і, прымхі і забабоны, помнікі археалогіі, архітэктуры, адметныя мясціны губерні, гісторыя значных населеных пунктаў; прыведзены каляндар сямейнага нар. побыту на кожны месяц і на цэлы год, назвы лекавых раслін і іх прызначэнне. Ініцыятар стварэння губернскага гісторыка-этнагр. музея ў Магілёве (1879). Садзейнічаў У. З. Завітневічу, М. В. Фурсаву, С. Ю. Чалоўскаму і інш. у вывучэнні гісторыі і этнаграфіі Магілёўшчыны, правядзенні археалагічных раскопак у Падняпроўі.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ДАРАВІ́НСКАЯ** (Derewińska) Амелія (1863—91), беларуская і польская фалькларыстка і этнограф; гл. *Бірута.*

**ДАРАСІ́НСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з в. Дарасіно Любанскага р-на. Промысел найбольшае развіццё атрымаў у 19 ст. Вырабляюць паліваны кухонны, сталовы, тарны посуд, цацкі. Вырабы вызначаюцца прапарцыянальнасцю, ураўнаважанасцю і завершанасцю форм, светлым або светла-чырвоным колерам глін у спалучэнні з празрыстай або зялёнай палівай. Упрыгожваюць прамымі і хвалістымі выцiснутымі або маляванымі лініямі. Вырабляюць таксама чорназдымлены посуд.

**ДАРМАВЕ́С**, гарызантальны брусок, замацаваны на *кансолях.* У будынках з двухсхільнай страхой — аснова *застрэшка*ў ніжняй частцы шчыта.

**ДАРО́ЖКА**, снасць для лоўлі драпежнай рыбы. Уяўляе сабой прадаўгаватую металічную пласціну з прыкляпаным на канцы кручком або якарком, якая мацуецца да доўгага шнура, што цягнецца за чоўнам ці лодкай. Кручок або якарок маскіруюць чырвонымі ніткамі ці абрэзкам чырвонай тканіны. Каб сачыць за ходам Д. ў вадзе, рыбалоў, паклаўшы шнур за вуха, трымаў яго канец у зубах. Пасля заканчэння лоўлі шнур намотвалі на спец. вараток (матавільца) або дошчачку. Часам Д. закідваюць з берага і падцягваюць яе да сябе. Вядома Д. на Беларусі са старажытнасці. У наш час спосаб лоўлі Д. ўжываецца ў аматарскім рыбалоўстве. Для лоўлі рыбы такім спосабам выкарыстоўваецца і спінінг. *І. М. Браім.*

**ДАРЭ́ННЕ**, вясельны абрад, які выконваецца на працягу ўсяго *вяселля*, пачынаючы ад *запоін.* Лакальныя назвы абдорванне, надзяленне. Асноўныя віды: абмен падарункамі паміж нявестай і жаніхом і іх сваякамі (азначае яднанне маладых і іх родаў); Д. раднёй і суседзямі маладым у час падзелу *каравая* (вынік захавання рэшткаў родавага побыту); Д. жаніхом дробных падарункаў нявесце, яе маці, братам, сёстрам (звязана з рэшткамі стараж. элементаў формы шлюбу пры дапамозе куплі-продажу); абдорванне маладой пасля пераезду ў дом маладога ўсёй яго радні. Апошні рытуал узнік пазней, калі дары маладога як своеасаблівы выкуп маладой страцілі сэнс; па аналогіі гэты від Д. перанесены на маладога і яго сваякоў. Ад маладой патрабавалася асаблівa вялікая колькасць дароў, таму ёй рыхтавалі іх з дзяцінства, дапамагалі сваякі. Падарункі (лён, воўна, маткі ніток, палатно і інш.), якія ўваходзілі ў *прыданае*, нявеста атрымлівала ад сваякоў і суседзяў пры запрашэнні іх на вяселле. У час запоін і *заручын* нявеста абдорвала сватоў жаніха ручнікамі, хусткамі і інш.; сваты давалі ёй крыху грошай, стужкі і інш. На вяселлі маладых абдорвалі некалькі разоў кожнага паасобку або разам. Падарункі звычайна клалі на засланае ручніком века ад дзяжы (пазней — на талерку), пастаўленае на стале перад маладымі. Нярэдка блізкая радня дарыла маладым жывёлу, зерне, гаспадарчыя рэчы і інш. Асоба, якая дарыла, называла дароную рэч, выказвала добрае пажаданне маладым і выпівала чарку. У бел. вяселлі ёсць вялікая колькасць спецыяльных пажаданняў, якія выказваліся ў час Д. асобнымі формуламі, звычайна ў рыфмаванай форме. У песнях Д. і формулах-пажаданнях змяшчаюцца таксама пагрозы, праклёны таму, хто не стрымае свайго слова («не аддасі — ваўкі з'ядуць»; «звяр'ё паз'ядае», «па лясах паабягае» і г. д.). Маладыя ў сваю чаргу жадалі тым, хто дорыць, каб іх дар кампенсаваўся «ў хлявочку — волікамі, у стаенцы — конікамі, у садочку — пчолкамі, а ў пасцелі — жонкаю» і інш. Сучаснае бел. вяселле ў сваёй аснове захавала лепшыя нар. традыцыі Д. *Л. А. Малаш.*

**ДАЎБЕ́ЖНАЕ РАМЯСТВО́**, вытворчасць *выдзеўбанага посуду* і іншых вырабаў з дрэва спосабам даўбення ці апрацоўкі яго натуральных (дуплістых) форм. Д. р. — адно з найбольш старажытных. Вытворчая практыка ў сваім развіцці ад архаічных форм натрапіла на гэты спосаб вырабу посуду раней, чым стаў вядомы спосаб вырабу з клёпак. Просты посуд — карыты, кадоўбы, жлукты — выраблялі ў вялікай колькасці сяляне, якія не валодалі спецыяльнымі навыкамі дрэваапрацоўкі. Д. р. практычна не вылучалася ў спецыялізаваны саматужны занятак і насіла характар хатняй вытворчасці. На вытворчасць выдзеўбаных вырабаў выкарыстоўвалі звычайна мяккаслойныя і падатлівыя пароды драўніны (ліпу, вольху, асіну); чаўны і ступы рабілі з дубу, хвоі. У залежнасці ад функцыянальнага прызначэння вырабу майстры ўлічвалі трываласць драўніны, яе арганахімічныя і інш. ўласцівасці.

У Д. р. карысталіся *долатам, пешняй, пілой, разцом, скоблямі, сякерай*, цыркулем, *цяслой, чакухай.* Кожны з інструментаў прымяняўся на пэўнай тэхналагічнай стадыі і ў залежнасці ад памеру, формы і функцыянальнага прызначэння вырабаў. Пры апрацоўцы карытападобных форм найбольш прыдатнымі былі сякера і цясла, цыліндрычных — пешня і скобля. Амаль кожны з інструментаў меў варыяцыйныя асаблівасці канструкцыі (цёслы з прамой і каленападобнай ручкай, скоблі аднаручныя і двухручныя, долаты з прамым і авальным лязом і г. д.). Пры ўстаўцы днішчаў у цыліндрычны ці конусападобны корпус яго распарвалі, што дазваляла дакладна і трывала дапасаваць абедзве часткі; у архаічным варыянце тоўстыя днішчы замацоўвалі ў корпусе пры дапамозе драўляных цвікоў. Для трываласці корпус сцягвалі абручамі, як у *бандарных вырабах.* Функцыянальнае прызначэнне розных відаў выдзеўбаных вырабаў накладвала адбітак на вонкавы выгляд, эстэтыку, якасць іх апрацоўкі. Асабліва старанна і па-мастацку выраблялі карцы, фаскі, кублы, апалушкі, сальніцы, бойкі. Тым жа спосабам, з дапамогай пешні, долата, скоблі, рабілі



Дарасінская кераміка.

некаторыя віды старасвецкай мэблі — шафкі для кухонных прыпасаў, шафы для адзення, драўляныя трубы, што служылі дымаходам у сялянскім жыллі, водаадводам, кальцом (кайдубам) студні, калоднымі вуллямі і інш. Пры вырабе ступ для апрацоўкі зерня, чаўноў-аднадрэвак выкарыстоўвалі часцей цяслу, долата, разец. Выраб чаўноў нярэдка вылучаўся ў самастойны промысел. *В. С. Цітоў.*

**«ДАЎЖО́К»**, традыцыйны танец. Захаваў стараж. кантрдансную кампазіцыю. Дзве лініі танцораў, якія трымалі адзін аднаго за талію, выстрайваліся насупраць адзін аднаго, сходзіліся і разыходзіліся, уздымаючы ўперад ногі з прытупваннем у такт. У іншых вёсках крокі суправаджаліся прысяданнямі, скокамі і прыпеўкамі. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Брэсцкай вобласці. *Ю. М. Чурко.*

**ДАХ** (ням. Dach), верхняя частка будынка; тое, што і *страха*.

**ДАХО́ЎКА**, керамічная плітка для накрыцця дахаў пераважна мураваных будынкаў (называлася таксама чарапіца). Адзін з найбольш вогнетрывалых і даўгавечных дахавых матэрыялаў, які ў познім сярэднявеччы адыгрываў пэўную ролю ў дэкаратыўным аздабленні храмаў, палацаў, замкаў. Вядома з 14 ст. Спачатку яна была паўцыркульнай або жалабаватай (14 — пач. 15 ст.), затым пляскатай — «бабровы хвост» (15—16 ст.) і простай з паўкруглым канцом (15—17 ст.). Паступова яе замяніла хвалістая, або галандская, Д. (канец 17 — пач. 20 ст.). Схілы і верх стромкіх дахаў пакрывалі канькавай Д., якую зрэдку аздаблялі геаметрычным арнаментам (Навагрудак). З канца 15 і ў 16 ст. ужывалася дэкаратыўная непаліваная і паліваная (зялёнага колеру) гатычная канькавая Д. з доўгім (да 9 см) выступам накшталт птушынай галавы з дзюбай і круглай адтулінай для мацавання вялікім каваным цвіком да кроквы (Мірскі замак, Гродзенскі Стары замак). У 18 ст. існавала чорнаглянцаваная дэкаратыўная Д. (Гродзенскі Брыгіцкі касцёл) і непаліваная Д. з налепамі (Мінская Петрапаўлаўская царква). Акрамя гладкай зялёнай і карычневай паліванай Д., выраблялі і Д. з паверхняй у выглядзе рыбінай лускі (Гродна, Мсціслаў). Да канца 18 — сярэдзіны 19 ст. Д. звычайна рабілі мясцовыя ганчары разам з кафляй і посудам. У 1-й пал. 20 ст. распаўсюдзілася т. зв. штампаваная Д., зробленая машынным (заводскім) спосабам са складана прафіляванай паверхняй. Такая Д. часам мела заводскія клеймы. У 1920—30-я г. ў Зах. Беларусі рабілі цэментную і шкляную Д. *А. А. Трусаў.*

**ДВОР,** 1) комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў; тое, што і *сядзіба*. 2) Участак зямлі пры хаце, доме, абгароджаны плотам ці сценамі будынкаў (панадворак). 3) У феадальны перыяд Д., або *дым*,— асобная гаспадарка, якая абкладалася падаткамі і павіннасцямі. 4) Памесце, маёнтак. Феадальныя Д. пашыраны на Беларусі са стаража̀тнасці, належалі вял. князю, магнатам, шляхце, зямянам, баярам. Велікакняжацкія Д. былі адначасова паштовымі станцыямі, цэнтрамі валасцей (апошнюю функцыю выконвалі і многія магнацкія Д.). Падданым вялікага князя спыняцца на пастой у гэтых Д. забаранялася. Д. абносіўся трывалым парканам (*астрогам* або *замётам* у шулы), ад дарогі ў падвор'е вялі двухпольныя вароты або ярусная брама. На тэр. Д. стаялі велікакняжацкі (панскі) дом, флігелі, стайні, вазоўні, свірны, аборы, лазня, скарбніца і інш. Каля большасці двароў існавалі асобныя *фальваркі*. У 17—18 ст. былі таксама загарадныя «паляўнічыя» Д. магнатаў з жыллём для гасцей і егераў, стайнямі, псярнямі і інш. *Ю. А. Якімовіч.*



Выява дахоўкі на царскіх варотах Варапілавіцкай Праабражэнскай царквы.



Дахоўка: 1. Пляскатая. Мірскі замак 16 ст. 2. Паўцыркульная. Навагрудак. Канец 14 — пачатак 15 ст.; 3. Пляскатая (дэкаратыўная). Магілёў. 17 ст.

**ДВО́РЫШЧА,** адна з адзінак абкладання сялянскіх гаспадарак феадальнымі павіннасцямі (грашовым і натуральным аброкам, паншчынай) у 15—16 ст. Пашырана было на ПдЗ Беларусі (у асноўным Пінскі пав.). Існавала разам з жэрабямі і *службамі*. Д. не былі аднолькавымі ні па колькасці *дымоў*, якія ўваходзілі ў сялянскую гаспадарку, ні па плошчы зямлі, якую яны апрацоўвалі. У 16 ст. складалася ў сярэднім з 2—4 дымоў, гаспадары якіх звычайна былі родзічамі. У гаспадарку Д., акрамя зямельнага надзелу, уваходзіла сядзіба з пабудовамі і агародамі. У агульным карыстанні членаў Д. знаходзіліся выганы, сенажаці, рыбныя ловы, бортныя і лясныя ўгоддзі. *В. Ф. Голубеў.*

**ДВУХАСНО́ЎНАЕ ТКА́ЦТВА,** тэхніка народнага ткацтва; тое, што і *падвойнае ткацтва*.

**ДВУХКО́ЛКА**, двухколавая павозка для язды на кароткія адлегласці; тое, што і *бяда*.

**ДВУХМО́ЎЕ**, б і л і н г в і з м, валоданне дзвюма моўнымі сістэмамі і карыстанне імі. Варыянт Д.— шматмоўе (полілінгвізм), валоданне і карыстанне больш чым дзвюма моўнымі сістэмамі. Да Д. адносяць і ўжыванне двух дыялектаў адной мовы ці літаратурнай мовы і дыялекту (калі асоба яго мадыфікуе). Паводле розных крытэрыяў адрозніваюць Д.: актыўнае (асоба валодае вуснай формай мовы і карыстаецца ёю), патэнцыяльна актыўнае (асоба валодае вуснай формай мовы, але працяглы час ёю не карыстаецца) і пасіўнае (асоба разумее мову, але вуснай формай не можа карыстацца); нарматыўнае, або каардынацыйнае (паслядоўна правільнае ўжыванне норм абедзвюх моў), аднабакова-нарматыўнае (асоба валодае нормамі толькі адной мовы) і ненарматыўнае (асоба не валодае нормамі ні адной мовы); чыстае (асоба ў адной

сітуацыі карыстаецца адной мовай, у другой сітуацыі — другой) і змешанае (асоба ў адной і той сітуацыі карыстаецца дзвюма мовамі); непасрэднае (калі мова непасрэдна звязана з мысленнем) і апасродкаванае (мова кадзіруе думкі, выказаныя першаснай мовай); двухбаковае (Д. пашыраецца сярод абодвух этнасаў, якія кантактуюць) і аднабаковае (Д. пашырана толькі ў асяроддзі аднаго з кантактуючых этнасаў); індывідуальнае, групавое, масавае, тэрытарыяльнае, пагранічнае (на этнічным сумежжы), суцэльнае, агульнанароднае. Адрозніваюць Д. блізкароднаснае, калі магчымы непасрэдны кантакт паміж носьбітамі дзвюх моў (кожны гаворыць на сваёй) і няроднаснае ці аддалена роднаснае (непасрэдны кантакт патрабуе перакладу з адной мовы на другую). Для асобы (білінгва), якая валодае дзвюма мовамі, уласцівы т. зв. дамінантны механізм у адносінах да адной з моў: праз гэту мову рэчаіснасць успрымаецца лягчэй і хутчэй, чым праз іншыя. Для большасці асоб роднай мовай з'яўляецца мова свайго этнасу. Аднак існуе т. зв. «ірландскі» тып суадносін карыстання моў свайго і інш. этнасу (у Ірландыі 98,4 % насельніцтва складаюць ірландцы, з іх валодаюць ірландскай мовай менш як 20 %). Д. існавала ва ўсе эпохі чалавечай гісторыі. З яго дапамогай вырашаліся праблемы зносін (кантактаў) паміж рознымі этнасамі і абмен вопытам. Адасабленне ад знешняга свету прыводзіла да адставання. З другога боку, штучнае фарсіраванне такога тыпу Д., калі парушалася нарматыўнасць мовы свайго этнасу, давала негатыўныя вынікі: мова другога этнасу засвойвалася без адпаведных норм, у выніку чаго стваралася масавае ненарматыўнае Д. (напр., з'ява, тыповая для сучасных бел. гарадоў). Масавае ненарматыўнае Д. можа папярэднічаць моўнай асіміляцыі.

У БССР найбольш пашыраны бел.-рускае Д. Паводле перапісу 1979, беларусы ў рэспубліцы складалі 79,4 %, з іх назвалі бел. мову роднай 83,5 %, другой мовай — 10,1 %. Сярод прадстаўнікоў іншых народаў, якія жывуць у БССР, 40,2 % назвалі бел. мову другой або роднай. Для некаторых гарадоў Беларусі характэрны тып моўнай сітуацыі (суадносін мовы свайго і мовы другога, хоць і блізкароднаснага этнасу), пераходны да «ірландскага». Напр., у Мінску ў 1979 беларусы складалі 68,4 %, назвалі бел. мову роднай 42,3 % усяго насельніцтва, роднай і другой — 67,5 % (беларусы 59,7 %, прадстаўнікі іншых народаў 7,8 %). У той жа час прадстаўнікі небел. нацыянальнасці, якія жывуць у іншых рэспубліках, але раней жылі ў БССР, нярэдка валодаюць бел. мовай. Так, паводле перапісу 1970, за межамі БССР бел. мову назвалі другой або роднай 57 466 чалавек небеларусаў. Для шэрагу раёнаў інш. рэспублік, пагранічных з БССР, характэрны тып Д. і шматмоўя, пры якіх адной з моў з'яўляецца беларуская. Так, на ПдУ Літоўскай ССР гэта Д. і шматмоўе бел.-польскае, бел.-літоўскае, бел.-польска-літоўскае, бел.-польска-літоўска-рускае; на ПдУ Латвійскай ССР — бел.-руска-латышскае; у пагранічных з БССР раёнах Смаленскай, Пскоўскай, Бранскай абласцей РСФСР — бел.-рускае; на Пн Чарнігаўскай вобл. УССР бел.-укр.-рускае.

Існуюць або існавалі на Беларусі і іншыя тыпы Д. У Вял. кн. Літоўскім бел. мова была дзяржаўнай, а на бел.-літоўскім этнічным узмежжы да пач. 20 ст. яна з'яўлялася мовай міжэтнічных зносін паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей. Гэта спрыяла яе пашырэнню сярод літоўцаў, татараў, караімаў, палякаў, яўрэяў, рускіх стараверaў. На бел. мову перайшлі асобныя групы літоўцаў, караімаў, палякаў, большасць бел. татараў. У наш час на ПнЗ Беларусі ў многіх населеных пунктах пашырана бел.-літоўскае і літоўска-бел. Д., у некаторых — бел.-латышскае. У мінулым абсалютная большасць яўрэйскага і цыганскага насельніцтва Беларусі актыўна валодала бел. мовай у яе дыялектнай форме. Яўрэі валодалі больш чым адным бел. дыялектам. У наш час значная частка яўрэяў і асабліва цыганоў валодаюць бел. мовай, пры гэтым у яўрэяў пераважае літаратурны варыянт мовы, у цыганоў — дыялектны. Бел.-польскае Д. атрымала пашырэнне ў некаторых раёнах Беларусі з канца 14 ст. (пасля Крэўскай уніі 1385); пасля Люблінскай уніі 1569 і да паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве пашырылася паўсюдна, у 1920—30-я г. — у Зах. Беларусі. У наш час на тэр. Зах. Беларусі 20 % насельніцтва валодае вуснай формай польскай мовы і звыш палавіны (у т. л. нямала прадстаўнікоў рускай народнасці) разумее яе. Пасіўна валодаюць польскай мовай беларусы з Цэнтр. і Усх. Беларусі. Такім чынам, для пэўнай часткі бел. насельніцтва характэрны пасіўны або патэнцыяльна актыўны варыянт бел.-польскага Д. Дзякуючы генетычнай блізкасці і кантактам частка беларусаў валодае укр. мовай, на крайнім ПдЗ рэспублікі часта валодаюць яе літаратурным варыянтам. У мінулым было таксама пашырана валоданне старaслав. (з 10 ст.), лацінскай (у 14—19 ст.), грэчаскай (у 10—17 ст.) мовамі.

У некаторых мясцовасцях, дзе бытуюць розныя тыпы гаворак, сустракаецца дыялектнае Д.: насельніцтва тых ці іншых вёсак, акрамя сваёй гаворкі, актыўна валодае іншымі, пашыранымі ў блізкіх населеных пунктах. Фарміраванне іншых варыянтаў Д. на Беларусі — вынік кантактаў бел. насельніцтва ці яго асобных прадстаўнікоў з прадстаўнікамі іншых народаў. Сярод беларусаў, якія жывуць за мяжой, найбольш пашыраны такія тыпы Д., як бел.-польскае (ПНР), бел.-англійскае (ЗША, Канада), бел.-іспанскае (Лацінская Амерыка). *Ф. Д. Клімчук.*

**ДВУХНІТО́ВАЕ ТКА́ЦТВА**, адна з найбольш старажытных і распаўсюджаных тэхнік народнага ткацтва. Ткацтва на 2 нітах давала магчымасць атрымаць тканіны палатнянага ці рыпсавага перапляцення. Выкарыстоўвалася самастойна і ў спалучэнні з інш. відамі ткацтва (закладным, браным, выбарным, ажурным, пераборным; гл. адпаведныя арт.). Двухнітовым спосабам звычайна ткалі льняное палатно (кужаль, зрэб'е, радно), некаторыя ўзорыстыя тканіны (спадніччыя, посцілкавыя) з разнаколернай ільняной або шарсцяной пражы, ручнікі. Аснова дэкаратыўнага рашэння — клетка і палоска.


**Двухнітовае ткацтва.** «Костачкі». Рэканструкцыя НДМЭЛ.


**Двухнітовае ткацтва.** Тканіна для андарака. Вёска Зялёнкі Любанскага раёна.

У канцы 19 — пач. 20 ст. клятчастыя льняныя спадніцы (рабізны, рабакі, рабушкі, рабейкі, саматканкі і інш.) у вёсках насілі амаль паўсюдна. Рэгіянальныя асаблівасці выяўляліся ў пераважанні якога-небудзь колеру (напр., на Магілёўшчыне і Гомельшчыне чыр-

вонага, на Віцебшчыне цёмна-сіняга) або вертыкальных ці гарызантальных палос, маштабных клетак. Сярод шарсцяных двухнітовых спаднічных тканін найбольш пашыранымі былі тканіны ў палоску (даматканкі Брэстчыны, андаракі Магілёўшчыны) і клетку (андаракі Міншчыны і Гомельшчыны). На аснове палатнянага перапляцення атрымлівалі розныя дробныя ўзоры, выкарыстоўваючы каляровыя ніткі асновы і розныя камбінацыі двухчаўночнага ўтку. Так, для спаднічнай тканіны «костачкі» (Віцебшчына, Магілёўшчына) рабілі двухколерную аснову, у якой цёмныя і светлыя ніткі чаргаваліся праз адну. Пры запраўцы красён іх накідалі ў розныя ніты (напр., цёмныя ў першы ніт, светлыя ў другі), мяняючы месцамі праз роўную колькасць нітак. Светлыя і цёмныя ніткі ўтку чаргаваліся ў тым жа парадку. Пры гэтым атрымлівалі тканіну са штрыхавым клятчастым узорам.

У тканінах для фартухоў, ручнікоў і інш. выкарыстоўвалі ўточны рыпс, атрыманы на аснове палатнянага перапляцення (тонкія ніткі ўтку поўнасцю перакрывалі больш тоўстыя ніткі асновы). Такім чынам атрымлівалі палосы шчыльнага ўточнага насцілу (пераважна чырвонага колеру) на белым фоне. Такі спосаб упрыгожвання тканін называўся *ператыканнем* (Палессе). Шырока выкарыстоўваліся і дробныя двухчаўночныя ўзоры — зубчыкі, шашачкі. Такія ж прыёмы арнаментацыі характэрны для льняных посцілкавых тканін Гомельшчыны (посцілкі «кацавыя»), у якіх рэдкія ніткі асновы (цераз трасціну) поўнасцю пакрываліся ніткамі ўтку. Своеасаблівых дэкаратыўных эфектаў дабіваліся выкарыстаннем утку рознай таўшчыні і рознай шчыльнасці натыкання ўтку (фартухі Зах. Палесся). Для атрымання вузкіх узорыстых палосак у зеў закладвалі тонкія шнуркі, скручаныя з нітак кантраснага колеру (напр., чырвонага і чорнага, чырвонага і белага і інш.). Такі прыём выкарыстоўвалі ў тканінах для фартухоў, спадніц (Столінскі р-н), ручнікоў (Гомельскі р-н), пазней — пры тканні палавікоў і посцілак. *М. М. Віннікава.*

**«ДЖАНДЖО́ХА»**, традыцыйны танец. У асобных вёсках называўся «Васьмухай», бо яго выконвалі ад 4 да 8 пар. Танцоры ў пары стаялі тварам адзін да аднаго, трымаліся за локці рук і круціліся хутка па чарзе вакол сваёй восі. У гэты час адзін з партнёраў прысядаў, часам прысядалі абодва. Танцоры спявалі:

Ой, топну нагой,
Ды прытопну другой.
Колькі я не тапачу,
Усё раўно плясаць хачу.

Танец працягваўся да таго часу, пакуль усе пары не пракруцяцца. У некаторых мясцінах «Дж.» выконваўся як фігура кадрылі. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Віцебскай вобласці. *Ю. М. Чурко.*

**«ДЖЫГУ́Н»**, традыцыйны танец. Лакальная назва «Джагунец». Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умераны. Танцавалі сола, скачучы праз 2 палкі, пакладзеныя накрыж, з прыпеўкамі.

Сустракаліся і сольныя імправізаваныя варыянты «Дж.». Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Брэсцкай вобласці. *Ю. М. Чурко.*

**ДЗВЕ́РЫ**, канструкцыйны элемент будынка, які служыць для ўваходу і выхаду з яго. Колькасць Дз., іх месца і памеры вызначаюцца планіроўкай будынка і функцыянальнымі сувязямі паміж яго памяшканнямі. Найбольш старадаўняя форма Дз.— на *бегунах*, у наш час пашыраны Дз. на *завесах*. У іх канструкцыю ўваходзяць *вушакі*, злучаныя ўверсе вершнікам, і палатно з дошак, злучаных шпонамі — драўлянымі планкамі, шчыльна збітымі ў пазы. Звычайна Дз. маюць адно палатно. Дз. з дзвюх створак характэрны для мястэчковага жылля. Атрымалі пашырэнне двухстворкавыя Дз. са шклом, асабліва пры ўваходзе ў залу. Дз. ў гаспадарчых пабудовах (хлявах, гумнах, адрынах і г. д.) называюць варотамі. У залежнасці ад канструкцыйнага вырашэння Дз. падзяляюцца на дашчаныя (з аднаго слою дошак), шаляваныя (з двух слаёў дошак) і філянговыя. Дашчаныя часцей за ўсё былі ў гаспадарчых будынках. У шаляваных верхні слой звычайна рабілі з кароткіх дошчачак, якія складалі разнастайныя ўзоры (елачку, квадраты, ромбы, сонца і г. д.); дэкаратыўнасць такіх Дз. узбагачалася профілямі дошчачак, радамі каваных цвікоў, выгібам вершніка. Філянговыя Дз. асабліва пашыраны ў наш час. Яны складаюцца з рамы, у якую ўпушчаны больш тонкія дошкі. Элементы філянговых Дз. заўсёды прафіляваныя. Адчыняюцца і зачыняюцца Дз. пры дапамозе *клямкі*, замыкаюцца з дапамогай *засавак*, *замкоў*, інш. запораў. *С. А. Сергачоў.*



**Дзверы** жылога дома ў гарадскім пасёлку Свір.

**ДЗЕ́ВЕР**, мужаў брат.

**ДЗЕВЯЦІ́-ГАРА**, гл. ў арт. *Дзявочая гара.*

**ДЗЕД**, 1) бацькаў або матчын бацька. 2) Стары чалавек наогул. 3) Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны ці смалістых корчыкаў; тое, што і *лучнік.*

**ДЗЕД**, міфічны пачынальнік роду; пудзіла, зробленае са зношаных кашулі і штаноў, набітых саломай, якое ўвасабляла пладавітасць роду. Дз. ставілі ў варотах дома маладога, у дзвярах клеці або ў хаце на куце. Маладая, першы раз уваходзячы ў двор ці дом маладога або выходзячы пасля першай шлюбнай ночы з клеці, павінна была павесіць на палавыя атрыбуты Дз., зробленыя з буракоў і морквы, пояс ці стан палатна. Часам, калі маладыя заходзілі ў хату, на куце ўжо сядзела, старая жанчына ў абдымку з Дз. Каб выкупіць месца на куце, маладая павінна была падперазаць Дз. поясам, а жанчыну павязаць хусткай. Паступова першапачатковы сэнс Дз. і звязанага з ім абраду сцёрся і яго пачалі ставіць у варотах дома маладога, калі бацькі маладой прыязджалі адведаць яе пасля першай шлюбнай ночы або ў выпадку страты цнатлівасці маладой яшчэ да замужжа. Пазней у некаторых мясцовасцях фігуру Дз. замянялі зажынальным снапом, на які маладая, зайшоўшы ў хату маладога, клала палатно, пояс, або маці маладога з гэтым снапом сустракала маладых каля варот, а маладая выконвала тыя ж дзеянні. *Л. А. Малаш.*

**«ДЗЕД»**, персанаж *народнага тэатра.* Шырока вядомы па паказах калядных гульняў (*«Каза», «Кабыла», «Шчадрэц»*), *батлейкі, народнай драмы.* Звычайна выступаў як блазан, увасабляў карнавальны пачатак у народным тэатры.

**ДЗЕМІДО́ВІЧ** Павел Пятровіч (10.7.1871, в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на —7.3.1931), беларускі савецкі этнограф і фалькларыст. Член-супрацоўнік аддзялення этнаграфіі Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це (з 1908), член этнагр. секцыі Ін-та бел. культуры (з 1925). Скончыў Віленскі настаўніцкі ін-т (1897). Працаваў настаўнікам у Навагрудскім пав., з 1920-х г. у Мінску. Вывучаў сямейны побыт, вераванні, абрады і звычаі беларусаў, запісваў фальклор, гутаркі. Друкаваўся ў газ. «Виленский вестник», час. «Этнографическое обозрение», «Живая старина». Аўтар прац «Калядныя святкі» (1894—95), «Дробныя нататкі з жыцця беларуса», «Масленіца і вялікі пост», «Благавешчанне», «Вялікдзень у сяльчан беларусаў», «Радаўніца ў Беларусі», «Купалле ў беларускай вёсцы» (усе

1895), «Беларускія дзіцячыя гульні» (1898). Апісваў нар. абрады і звычаі адпаведна гадавому кругу земляробчага календара, адзначаў уплыў сацыяльных фактараў на аграрныя і сямейныя абрады, сувязь калядных павер'яў і варажбы з відамі селяніна на будучы ўраджай і сямейны дабрабыт. У 1896 апублікаваў нарыс «З галіны вераванняў і паданняў беларусаў», дзе падрабязна апісаў нар. вераванні пра нячыстую сілу, ведзьмаў, знахароў, ваўкалакаў, заклятыя мясціны, замовы, што бытавалі ў Навагрудскім і Мінскім пав. У «Гутарцы Паўлюка» (1898, пад псеўданімам Беларус) уздымаў маральна-этычныя праблемы. Частку сабраных фальклорна-этнагр. матэрыялаў перадаў М. В. Доўнар-Запольскаму.

*А. І. Гурскі.*

**ДЗЕНЬ НАРАДЖЭ́ННЯ**, свята, прысвечанае гадавіне жыцця асобы. У дарэвалюцыйны час бытавала пераважна ў асяроддзі заможных слаёў насельніцтва. Называлася імянінамі, днём анёла, што абумоўлівалася супадзеннем Д. н. са штогадовым адзначэннем царквой памяці аднайменнага святога або анёла. У сав. час Дз. н. характэрны для абраднасці ўсіх сацыяльных груп. Ад традыцыйных імянін засталася назва імяніннік, якой называюць чалавека ў яго Дз. н. Да Д. н. блізкія, сябры, знаёмыя шлюць яму віншавальныя тэлеграмы, паштоўкі, віншуюць праз радыё з выкананнем любімых мелодый, пры запрашэнні ў госці — уручаюць падарункі. У гонар імяніннiка арганізоўваецца святочная вячэра дома, у кафэ ці рэстаране, святочна сервіруюцца сталы ў дзіцячых дамах, інтэрнатах, навучальных установах, вайсковых падраздзяленнях. Застолле суправаджаецца віншаваннямі, імправізаванымі выступленнямі гасцей, канцэртамі самадзейных артыстаў, танцавальнай праграмай. Адзначаюць Дз. н. работнікаў і ў працоўных калектывах. Іх віншуюць праз насценны друк, у юбілейныя гады (т. зв. круглыя даты) — на сходах калектыву з уручэннем памятных адрасоў і сувеніраў *І. М. Браім.*

**ДЗЕНЬ ПА́МЯЦІ**, грамадзянскі рытуал памінання памёрлых. Узнік у канцы 1970-х г. Праводзіцца ў адзін з выхадных дзён у канцы красавіка ці ў пачатку мая, радзей — восенню (кастрычнік — лістапад). Спалучае нар. традыцыі беларусаў (*радаўніца, дзяды*) і сацыялістычныя інтэрнацыянальныя элементы памінальнай абраднасці. У правядзенні Д. п. ўдзельнічаюць сав., партыйныя, камсамольскія работнікі, шырокая грамадскасць, насельніцтва горада ці вёскі. Гэтаму дню папярэднічае падрыхтоўчая работа, аб ім паведамляюць афішы, радыё, газеты, спецыяльныя лістоўкі-запрашэнні. Упарадкоўваюцца могілкі, арганізуецца продаж кветак. Гучаць траурныя мелодыі. Дз. п. пачынаецца мітынгам, на якім упамінаюць удзельнікаў рэвалюцыйнага руху, грамадз. і Вял. Айч. войнаў, называюць імёны памерлых за апошні год. Хвілінай маўчання прысутныя ўшаноўваюць усіх нябожчыкаў. Кожны год прадстаўнікі трох пакаленняў высаджваюць ад імя жывых «Дрэва памяці». Мітынг заканчваецца ўскладаннем кветак да помнікаў, на магілы. Затым кожная сям'я застаецца каля магіл сваіх родных і блізкіх, часам там адбываецца памінальная трапеза.

*Т. І. Кухаронак.*

**ДЗЕНЬ ПАРТЫЗА́НА**, народная ўрачыстасць, прысвечаная гераічнай барацьбе савецкіх людзей у тыле ворага ў часы Вялікай Айчыннай вайны. У БССР бытуе з першых пасляваенных гадоў. Ушанаванне партызан прымяркоўвацца да дзён вызвалення гарадоў і вёсак Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (чэрвень—ліпень). Звычайна ўрачыстасці арганізоўваюцца на месцах былых партызанскіх стаянак і баявых дзеянняў. Святочныя мерапрыемствы Д. п. — ганаровыя варты каля помнікаў загінуўшым партызанам і воінам Сав. Арміі, ускладанні вянкоў і кветак, хвіліны маўчання, мітынгі, на якіх выступаюць удзельнікі вайны і прадстаўнікі грамадскасці. Да гэтага дня прымяркоўваюць адкрыццё помнікаў загінуўшым у барацьбе з фашызмам. Пасля ўрачыстай часткі адбываюцца канцэрты мастацкай самадзейнасці, нар. гулянні.

*І. М. Браім.*

**ДЗЕРАВЯ́ШКІ**, абутак з дрэва, якія насілі вясной і восенню. Лакальныя назвы дзеравянкі, клумпы. Былі двух тыпаў: башмакі, выдзеўбаныя з куска дрэва, з круглым або завостраным наском, і камбінаваныя туфлі на нізкім ці высокім абцасе, да драўлянай падэшвы якіх прымацоўваўся скураны верх ці шырокая скураная палоса. Дз. бытавалі ў 19— пач. 20 ст. пераважна на Гродзеншчыне і на З Віцебшчыны (спарадычна сустракаліся ў інш. рэгіёнах Беларусі).





Дзеравяшкі.

Дзісенская кераміка.

**ДЗЕСЯЦІ́НА**, даўняя адзінка вымярэння зямельнай плошчы, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы мер. Вядома ў Кіеўскай Русі, пазней у Расіі, на Беларусі і Украіне. Плошча ў форме квадрата або прамавугольніка, адзін з бакоў якога раўняўся $^1/_{10}$ вярсты (50 сажняў), адсюль і назва. Найбольш пашырана была т. зв. новая (казённая) Дз. = 2400 квадратных сажняў (1,0925 га), радзей старая Дз. = 2500 квадратных сажняў, гаспадарчая, або косая, Дз. = 3200 квадратных сажняў, гаспадарчая круглая Дз. = 3600 квадратных сажняў, сотенная Дз. = 10 000 квадратных сажняў і інш.

**ДЗІ́СЕНСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з Дзісны. У 18 ст. кераміку выраблялі і майстры гарпэчна-мулярнага цэха. У 1936 працавала

каля 25 чалавек. Выраблялі гаршкі, збаны, глякі, слаі, міскі, спарышы і інш. посуд, які ў залежнасці ад ёмістасці меў розныя назвы (гл. *Ганчарная сістэма мер)*. Значнае пашырэнне мелі дэкаратыўная кераміка і гліняныя цацкі пераважна анімалістычнага характару (фігуркі бараноў, пеўнікаў, мядзведзяў і інш.). Посуд вызначаўся плаўнымі мяккімі абрысамі, што былі характэрны промыслам Паўн.-Зах. Беларусі. Яго выраблялі спосабам выцягвання на нажным ганчарным крузе, выкарыстоўваючы фармовачную масу звычайна з гліны аднаго гатунку, зрэдку з дадаткам *жарствы* (для гаршкоў). У канцы 19— сярэдзіне 20 ст. пераважала вытворчасць паліванай керамікі (паліва на свінцовай аснове, празрыстая бясколерная, часам зялёная або карычневая). Аздаблялі традыцыйным лінейна-хвалістым контррэльефным арнаментам і раслінным або геаметрызаваным падпаліўным ангобным размалёўкай, нанесеным па чырвоным, часам белым фоне ў 2—3 колеры (белы, зялёны, карычневы). У наш час промысел не існуе. Калекцыя Дз. к. зберагаецца ў Музеі стараж. бел. культуры ІМЭФ АН БССР.
*С. А. Мілючэнкаў, У. В. Угрыновіч.*

**ДЗІЎНАЎСКІ МУЗЕЙ МАСТАЦТВА І ЭТНАГРАФІІ.** Адкрыты 21.11.1982 у в. Дзіўная Шаркоўшчынскага р-на. Мае 2 залы (плошча экспазіцыі 150 $м^2$), больш 1 тыс. экспанатаў (1988). Тэматычныя раздзелы: этнагр. і мастацкі. У экспазіцыі матэрыялы археалагічных раскопак на тэр. раёна (крамянёвыя нажы, стараж. зброя, жаночыя ўпрыгожанні, калекцыя манет), прадметы побыту і матэрыяльнай культуры беларусаў, творы нар. ганчарства, кавальства, ткацтва, вырабы з лазы і саломкі, фрагменты тканін са слуцкіх мануфактур (18 ст.), музычныя інструменты, рыбалоўныя прылады і інш.; жывапісныя і графічныя творы бел. мастакоў. Размешчаны ў будынку былога лютэранскага храма 19 ст. Працуе на грамадскіх пачатках. *І. А. Булыка.*

**ДЗІЦЯЧАЕ МЕСЦА,** народная назва пасцеду. Лакальныя назвы пасцель, гняздо. З Дз. м. былі звязаны розныя радзінныя звычаі і абрады. Калі нараджаўся хлопчык, Дз. м. закопвалі каля хаты, у хаце, пад парогам, на куце; лічылі, што такім чынам перадавалі яму любоў да роднага дому. Калі нараджалася дзяўчынка, Дз. м. закопвалі пад яблыняй, вішняй (каб была такая ж прыгожая), пад печчу (каб была добрай гаспадыняй). Лічылі таксама, што выкананне пэўных магічных дзеянняў з Дз. м. можа ўплываць на пол наступнага дзіцяці, на дзетародную функцыю жанчыны. Часта Дз. м. закопвалі ў хляве, каб павялічыць пладавітасць жывёлы. У наш час звычаі і абрады, звязаныя з Дз. м., не сустракаюцца. *Т. І. Кухаронак.*

**ДЗІЦЯЧАЯ САРОЧКА,** народная назва плоднага пузыра, які (у выглядзе тонкай плеўкі) часам аставаўся ў нованароджаных на галоўцы. Дз. с. лічылася знакам шчасця і дабрабыту. Яе захоўвалі як талісман. Пра людзей, якім вельмі шанцуе ў жыцці, кажуць: нарадзіўся ў сарочцы. Адгалоскі гэтай прыкметы сустракаюцца і ў наш час.

**ДЗМІТРЫЕЎ** Міхаіл Аляксеевіч [1832, Пецярбург —14(26).5.1873], рускі і беларускі этнограф і фалькларыст. Скончыў Галоўны пед. ін-т у Пецярбургу. З 1853 настаўнік дваранскага вучылішча, дырэктар гімназіі ў Навагрудку. У 1867—73 інспектар, дырэктар Гродзенскай дырэкцыі нар. вучылішчаў. Член Рускага геагр. т-ва. Друкаваўся ў газ. «Виленский вестник», «Минские губернские ведомости», «Гродненские губернские ведомости», час. «Вестник Западной России», «Вестник Императорского Русского географического общества», «Памятной книжке Виленского генерал-губернаторства на 1868 г.», «Памятной книжке Гродненской губ. на 1869 г.» і інш. Зрабіў апісанні нар. звычаяў, абрадаў, сялянскага побыту



Дзіўнаўскі музей мастацтва і этнаграфіі. Фрагмент экспазіцыі.

(«Вясельны абрад у вёсках Навагрудскага павета», 1861, «Апісанне пахаванняў і дзядоў у Навагрудскім павеце Мінскай губерні», 1867, «Норавы і звычаі заходнярускага народа», 1868, «Некалькі звестак пра хатні побыт сялян паўночна-заходніх губерняў», 1869, і інш.). Збіраў бел. нар. вуснапаэтычную творчасць, асабліва тапанімічныя і міфалагічныя легенды [«Возера Свіцязь (Легенда)», 1860, «Паданне пра Лоўчыцы», 1861, «Казкі заходнярускага народа», 1868, і інш.]. Цікавіўся жывой бел. моваи — спрабаваў скласці паказальнік слоў і выразаў гаворак Навагрудчыны. Выдаў зборнік бел. нар. паэзіі «Вопыт збірання песень і казак сялян Паўночна-Заходняга краю» (1868) і «Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю» (1869). У «Збор...» уключана 277 сямейна-бытавых, каляндарна-абрадавых і пазаабрадавых песень, 8 казак і апісанні абрадаў, нар. гулянняў, забаў, танцаў. Для сваіх публікацый нярэдка выкарыстоўваў запісы інш. фалькларыстаў. Шэраг тэкстаў песень у «Зборы...» запазычаны са зборніка Я. Чачота «Вясковыя песні...» (1837—46), а апісанне хаўтурнага абраду — з працы А. Кіркора «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1858). Частка фалькларна-этнагр. спадчыны Дз. не надрукавана і зберагаецца ў архіве Геагр. т-ва Саюза ССР і Бібліятэкі АН СССР (Ленінград) і ў Цэнтр. гіст. архіве Літоўскай ССР (Вільнюс). *І. К. Цішчанка.*

**ДЗЯВОЧАЯ ГАРА,** этнаграфічны аб'ект; адна з разнавіднасцей культавых узгоркаў, ушанаванне якіх пачалося ў язычніцкія часы. Узгоркі з такога роду назвамі часта сустракаюцца ў слав. землях: Дзявочая гара — каля Смаленска, у Трыполлі на Дняпры, у Сахноўцы на р. Рось, на р. Лыбедзь (Украіна); Дзевін — у Празе, у Хебе, у Мімоне, на р. Дыі (Чэхія), на р. Дунай (Славакія) і інш. Паводле меркаванняў сав. археолага Б. А. Рыбакова (у кн. «Язычніцтва старажытных славян», 1981; «Язычніцтва Старажытнай Русі», 1987), Дз. г. маглі быць звязаны з культам жаночага бажаства, з багіняй-дзевай, «панёсшай у лоне сваім». Нярэдка з Дз. г. звязаны стараж. рытуальныя традыцыі і паданні, якія генетычна звязаны з культам багіні кахання. Праводзілася археалагічнае даследаванне некаторых помнікаў. Высветлена, што ў цэнтры Дз. г. ў Трыполлі знаходзіўся ахвярнік — печ пачатку н. э. з дзевяццю паўсферычнымі секцыямі-паглыбленнямі. Лічба «дзевяць» у спалучэнні з жаночай назвай свяшчэннай гары, па думку Рыбакова, можа быць звязана з дзевяццю месяцамі цяжарнасці. На Дз. г. ў Сахноўцы знойдзена залатая пласціна скіфскага часу з выявай свята ў гонар нейкага жаночага бажаства. Ахвярнік з дзевяццю ямамі выяўлены на гарадзішчы Паганскае ў Маравіі (пач. 10 ст.), паблізу знаходзіцца гара Дзевін і р. Дыя («багіня»). Некаторыя Дз. г. ўшаноўваліся амаль да 20 ст., пра што сведчыць, напр., традыцыя ўстаноўкі трох драўляных крыжоў на Дз. г. ў Сахноўцы.

Некалькі ўзгоркаў з такімі назвамі ёсць на тэр. Беларусі: *Дзявочая гара* каля в. Дуброва Маладзечанскага р-на і ў Мсціславе. Гарадзішча Дз. г. ў ваколіцах в. Любанічы Кіраўскага р-на згадвалася ў 1-й пал. 19 ст. фалькларыстам і этнографам З. Я. Даленга-Ходакоўскім (сучасным археолагам помнік невядомы). У некаторых выпадках такія ўзгоркі насілі блізкую па значэнню назву. На ўскраіне Лагойска знаходзіцца гарадзішча Паненская гара, на якім выяўлена штрыхаваная кераміка ранняга жалезнага веку. З гарой звязана паданне пра загінуўшую тут дзяўчыну, выкарыстанае В. Дунін-Марцінкевічам у вершаванай аповесці «Вечарніцы». Назва г. Мар'іна Горка ў Пухавіцкім р-не паходзіць ад

горкі, на якой, паводле легенды, стаяў язычніцкі храм, дзе ў т. зв. Мар'ін дзень адбываліся святкаванні. Захавалася таксама паданне, што на гэтай горцы ляжаў камень, якому пакланяліся язычнікі і каля якога наладжвалі трызны і гульні, пасля асвячэння гэтага месца святой вадой гара раскалолася, а камень праваліўся. Падобны помнік захаваўся на Пн ад г. п. Смілавічы (гл. *Гудавіцкае свяцілішча*). Пасля прыняцця хрысціянства некаторыя ўзгоркі, звязаныя раней з культам багіні-дзевы, сталі прысвячацца маці божай, дзеве Марыі. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ДЗЯВО́ЧАЯ ГАРА́** 1) Дзевяцігара, этнаграфічны аб'ект, верагодна, помнік язычніцкага культу на тэр. Валожынскага р-на, за 0,5 км на З ад в. Дуброва Маладзечанскага р-на. Звесткі пра Дз. г. упершыню апублікаваны ў 1881 у «Слоўніку геаграфічным Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх», дзе прыводзіцца мясцовае паданне, паводле якога на гары закапана жывая дзяўчына і разам з ёй пахаваны два хлопцы, якія загінулі ў час спаборніцтва за права стаць яе мужам. Там жа ляжаў вялізны камень, на якім нібыта сядзела дзяўчына ў час спаборніцтва. У 1987 Э. М. Зайкоўскі на Дз. г. правёў археалагічнае абследаванне і раскопкі. Дз. г.— адзін з самых высокіх пунктаў у гэтай мясцовасці — знаходзіцца паблізу водападзелу Зах. Бярэзіны і Свіслачы, амаль уся зарасла лесам. У найбольш высокай паўн.-ўсх. частцы размешчана каля 20 курганоў (вышыня 0,5—1,5 м, дыяметр 6—12 м) і вялікая яма (магчыма, асталася ад каменя, згаданага ў паданні). Два курганы раскапаны. Адзін з іх складзены з камянёў, перасыпаных зямлёй. У ім на ўзроўні гарызонту выяўлены шкілет жанчыны, арыентаваны на З; знойдзены таксама фрагменты керамікі 11 ст. і сярэбранае скроневае кольца, канцы якога заходзяць адзін за адзін. Другі курган насыпаны з пяску і абкладзены камянямі. У цэнтры кургана (ніжэй узроўню гарызонту) размяшчаўся шкілет жанчыны (захаваўся не цалкам), таксама арыентаваны на З; выяўлены цырсцёнак і шкляная пазалочаная пацерка (11 ст.). У час шурфоўкі ў інш. месцах гары культурны пласт не выяўлены. Назва помніка сведчыць пра яго сувязі ў старажытнасці з культам язычніцкай багіні кахання. Другая назва помніка — Дзевяцігара — відаць, звязана з культам багіні-дзевы, «панёсшай у лоне сваім» і з дзевяццю месяцамі цяжарнасці. Да нядаўняга часу на гары святкавалася купалле.

2) Этнаграфічны аб'ект і, верагодна, помнік язычніцкага культу ў г. Мсціславе Магілёўскай вобл. Размешчана на правым беразе р. Вехры (вышыня над узроўнем ракі да 10 м, памеры пляцоўкі 108×48, па краях яе — вал вышынёй 2—2,5 м). Пра гару захавалася паданне, што яна нібыта была насыпана дзяўчатамі, што, як і назва помніка, сведчыць пра пэўную сувязь з культам язычніцкага жаночага бажаства, багіні-дзевы. У 1960 Л. В. Аляксееў правёў археалагічныя раскопкі помніка (у паўд. частцы пляцоўкі і на вале). Магутнасць культурнага пласта 0,4—0,6 м, верхняя частка яго ў старажытнасці была скапана для падсыпкі вала. У мацерыку выяўлена прамавугольная яма (без знаходак) і другая — неглыбокая і бясформенная (каля ўнутранага падножжа вала), у якой знойдзена некалькі лобных ці цемянных касцей маленькага дзіцяці. Верагодна, гэта былі рэшткі ахвярапрынашэння (дзіцячыя чарапы выяўлены таксама каля Бабінай гары пад Трахтэміравам на Украіне, аднак, паводле меркаванняў сав. археолага Б. А. Рыбакова, гэта гара хутчэй за ўсё была прысвечана не багіні-дзеве, а багіні ўраджаю і лёсу). Пра язычніцкі звычай прынясення ў ахвяру дзяцей згадваў у 12 ст. Кірыла Тураўскі. У культурным пласце Дз. г. трапляюцца рэшткі керамікі перыяду ранняй бронзы. Асноўная частка знаходак адносіцца да ранняга жалезнага веку (днепрадзвінская і зарубінецкая культуры). Вал быў насыпаны паступова: верхні пласт датуецца пачаткам н. э.; трапляюцца асобныя знаходкі перыяду Кіеўскай Русі і сярэдзіны 17 ст. Таму магчыма выкарыстанне Дз. г. як язычніцкага культавага помніка і ў жалезным веку і ў перыяд ранняга феадалізму. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ДЗЯВО́ЧНІК,** даўні звычай наладжваць вечарынку ў нявесты напярэдадні *вяселля*; тое, што і *суборная субота*.

**ДЗЯГА,** рэмень (папруга) з сырамятнай скуры.

**ДЗЯ́ДЗІНА,** дзядзькава жонка.

**ДЗЯДЗІНЕЦ,** 1) ядро, цэнтральная ўмацаваная частка старажытнарускага горада (пасля 14 ст. ў Расіі называлася крамлём, на Беларусі — замкам). Тут жыў князь з дружынай або прадвадзіцель (ваявода) з гарнізонам воінаў, знаходзіліся двары феадалаў, адміністрацыйныя і культавыя пабудовы. Найбольш часта Дз. размяшчаўся на мысе пры сутоках рэк: у Полацку Палаты і Зах. Дзвіны, у Мінску Нямігі і Свіслачы, у Віцебску Віцьбы і Зах. Дзвіны, у Гродне Гараднічанкі і Нёмана, у Тураве Язды, Струменя і Дамухі. Часамі знаходзіўся на ўзвышшы воддаль ракі (Навагрудак, Ваўкавыск). Плошча Дз. ў найбольш буйных гарадах Беларусі: Полацка каля 10 га, Мінска 3 га, Віцебска 2,5 га, Гродна і Турава каля 1 га. Напачатку Дз. па перыметры ўмацоўвалі валам з частаколам або тынам, а са знешняга боку — і ровам. Пазней земляныя ўмацаванні заменены мураванымі (з каменю ці цэглы) сценамі і драўлянымі (радзей мураванымі) вежамі. Да Дз. часта прымыкаў умацаваны пасад — вакольны горад, заселены ў асноўным гандлё-



Канструкцыя страхі на дзядках.

ва-рамесным людам. У час небяспекі на Дз. і ў вакольным горадзе хаваліся жыхары адкрытых пасадаў і бліжэйшых сельскіх паселішчаў. 2) Месца ў царкоўным прытворы, дзе стаялі жабракі. 3) Агароджаны пляц, двор пры якойнебудзь вялікай пабудове (гаспадарчай, жылой і інш.). *Я. Г. Звяруга.*

**ДЗЯ́ДЗЬКА,** 1) бацькаў або матчын брат; цётчын муж. 2) Дарослы мужчына наогул; форма звароту да старэйшага ўзростам мужчыны.

**ДЗЯДЗЬКАВА́ННЕ,** звычай аддаваць дзяцей шляхты на выхаванне ў сялянскую сям'ю. Быў пашыраны на бел. землях у канцы 16—18 ст. і выкліканы жаданнем выхаваць у дзяцей станоўчыя фізічныя і духоўныя якасці простага народа: працавітасць, сілу, вынослівасць, непераборлівасць у ядзе і адзенні, любоў да зямлі.

**ДЗЯДО́К,** вертыкальны апорны элемент каркаснай канструкцыі *страхі*. Падтрымлівае вільчыкавы брус і апіраецца на бэлькі і папярочныя сцены. Калі Дз. ставілі на папярочныя сцены, ён ствараў канструкцыйную аснову шчыта двухсхільнай страхі. У Дз. рабілі пазы, дзе мацаваліся дошкі (брвёны) шчыта. Страха на Дз.— удасканаленне страхі на сошках. Найбольш пашыраны ў канцы 19— пач. 20 ст. на Паазер'і, Падняпроўі, у Цэнтр. Беларусі. *С. А. Сергачоў.*

**ДЗЯДЫ́,** народны памінальны абрад, рытуальная вячэра ў памяць памерлых родзічаў. Дз. называлі таксама дзень, калі адбываўся абрад, і нябожчыкаў, якіх ушаноўвалі. Паходзяць Дз. ад дахрысціянскага ўсх.-слав. звычаю трызны; звязаны з *культам продкаў*. Пазней абрад ускладніўся напластаваннем хрысціянскага культу. Дз. спраўлялі ў пэўныя дні 3—4 і больш разоў на год (у залежнасці ад мясцовасці) вясною і ўвосень. Галоўнымі былі Дз. змітраўскія *(асяніны)* — у суботу перад Змітравым днём (26 кастр. с. ст.), на *радаўніцу*, а таксама перад *масленіцай*, *сёмухай*. На Дз. гатавалі святочныя і абрадавыя стравы (абавязковымі былі куцця, бліны, клёцкі, ячня, мяса). Паводле звычаю, ад кожнай стравы сімвалічна адкладвалі ў асобны посуд частку нябожчыкам.

**ДЗЯЖА́,** дзежка, хлебніца, пасудзіна для заквашвання цеста, бандарны выраб. Лакальная назва квашня. Мела форму звужанай кверху шырокай бочачкі (вышыня звычайна раўнялася дыяметру вусця, аб'ём 20—30 л), накрыўка (вечка) з абечкам. Дз. малых памераў (дзежка, ці блінніца) служыла для заквашвання цеста на бліны. Рабілі Дз. звычайна з дубовых клёпак, часам з хваёвых (тады ставілі 2—3 дубовыя клёпкі, дуб паскараў працэс квашання і надаваў цесту лёгкі спецыфічны водар). Функцыянальнае выкарыстанне Дз. цесна звязана з культам хлеба, абумоўлівала яе асаблівае значэнне сярод хатняга начыння і прадметаў ужытку. У інтэр'еры сялянскай хаты Дз. адводзілі пачэснае месца: ставілі на покуці пад абразамі, накрывалі ручніком-«набожнікам». Яна выконвала важную ролю ў абрадзе *вяселля*. Благаслаўляючы на шлюб, нявесту з расплеценай касой пад гукі вясельных песень цырымонна садзілі на Дз. (на пасад). Гэты агульнаслав. звычай сімвалізаваў уступленне ў пару жыццёвай сталасці. Накрыўку Дз. выкарыстоўвалі на ўрачыстым паднашэнні хлеба-солі, каравая і інш. Пры наваселлі Дз. ўрачыста ўносілі ў дом у ліку першых рэчаў. Перш чым скарыстаць новую Дз., яе «прыручалі»: ставілі на суткі побач са старой на адной посцілцы пад адной покрыўкай. У сельскай мясцовасці бытавала да сярэдзіны 20 ст. *В. С. Цітоў.*





Дзежка-блінніца.

**Дзяннік.** Вёска Камаі Пастаўскага раёна.

**ДЗЯННІ́К,** частка сялянскага *двара*, дзе свойская жывёла магла знаходзіцца днём. У большасці раёнаў гэта адкрытая пляцоўка перад уваходам у хлявы. У вяночных дварах Падняпроўя Дз. агароджвалі плотам. На Паазер'і Дз.— важны функцыянальна-планіровачны элемент сялянскай сядзібы. Тут яго аб'ядноўвалі з хлявамі ў адзін будынак, накрыты агульнай страхою. На Дз. вялі адны або двое варот, якія стваралі скразны праезд на агарод, у сад. Праз спецыяльныя дзверы Дз. злучаўся з сенцамі. Непасрэдная сувязь жылой часткі праз Дз. з хлявамі — адметная рыса нар. будаўніцтва на Пн Беларусі. Часам тут рабілі акно з хаты ў Дз. (над палком, дзе спалі гаспадар і дарослыя члены сям'і). *С. А. Сергачоў.*

**ДЗЯРЖА́ВІН** Мікалай Севасцьянавіч [3.(15).12.1877, с. Прэслаў Запарожскай вобл.— 26.2.1953], савецкі філолаг, гісторык, грамадскі дзеяч. Акад. АН СССР (1931), ганаровы чл. АН БССР і Балг. АН. Чл. КПСС з 1945. Вучыўся ў Пецярбургскім ун-це (1896—97), Нежынскім гісторыка-філалагічным ін-це (1897—1900). З 1922 рэктар, у 1925—53 заг. кафедры слав. філалогіі Ленінградскага ун-та. У 1931—34 дырэктар Ін-та славяназнаўства АН СССР (Ленінград). Працы па этнагенезу славян, гісторыі і культуры Балгарыі, гісторыі рускай літаратуры і інш. У даследаванні «Паходжанне рускага народа. Велікарускага, украінскага, беларускага» (1944), разглядаючы гісторыю ўсх.-слав. народаў, прытрымліваўся тэорыі аўтахтоннасці славян, лічыў, што беларусы і іх мова сфарміраваліся на базе слав. субстрату, які ўтварыўся ў выніку «племянных скрэшчванняў паднёварускіх драўлян з сярэднярускімі дрыгавічамі і сярэднярускіх радзімічаў з усходнярусамі вяцічамі і часткова крывічоў»

(с. 90). Выказаў гіпапатычную думку, што ў стараж. часы тэр. Беларусі была заселена не літоўскімі і не славянскімі плямёнамі, а плямёнамі, на аснове якіх скламіся зародкавыя проталітоўскія і прасдавянскія племянныя ўтварэнні, з якіх пазней стварыліся літоўска-латышскія і слав. плямёны, а з апошніх вырас бел. народ. У фарміраванні ўсх.-слав. народнасцей важнае месца адводзіў сацыяльна-эканам. фактарам, выводзіў рускі, укр. і бел. этнасы непасрэдна з племянных фарміраванняў. У працах Дз. па этнагенезу славян адчуваецца ўплыў поглядаў М. Я. Мара. Дзярж. прэмія СССР 1948.

*Тв.:* Славяне в древности. М., 1946; История Болгарии. Т. 1—4. М.; Л., 1945—48.

*Літ.:* Список трудов академика Н. С. Державина в области славяноведения (1898—1952)//Краткие сообщения Ин-та славяноведения АН СССР. 1953. Вып. 11.

*В. К. Бандарчык.*

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ МАСТА́ЦКІ МУЗЕ́Й БССР,** рэспубліканскі музей выяўленчага мастацтва. Заснаваны ў Мінску ў 1939 (да 1957 Дзярж. карцінная галерэя). Аснову калекцыі склалі творы бел., рускіх і замежных мастакоў, а таксама вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія да Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіліся ў прыватнай уласнасці буйных бел. магнатаў. У Айч. вайну музей разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вайны знойдзена і вернута невялікая колькасць экспанатаў. Музей зноў адкрыты ў 1945 пасля стварэння новых фондаў. У 10 экспазіцыйных залах (плошча 1749 $м^2$), фондах (плошча 421 $м^2$) музея і яго філіялаў больш за 21 тыс. твораў (1988). Вял. калекцыя бел. мастацтва 16—20 ст. (абразы, стараж. драўляная скульптура, вырабы прыкладнога мастацтва), жывапісу, скульптуры і графікі дарэвалюцыйнага часу. Сярод іх узоры бел. нар. ткацтва (посцілкі, дываны, ручнікі, абрусы, паясы, фартухі, сярмягі, наміткі, чапцы, хусткі, гарсэты і інш.), кераміка. Найбольш поўна паказана ў музеі творчасць бел. сав. мастакоў. У экспазіцыі і фондах творы рускіх мастакоў 18— пач. 20 ст. Захоўваюцца калекцыі мастацтва Зах. Еўропы і краін Усходу. Музей праводзіць вял. навукова-даследчую, збіральніцкую і папулярызатарскую работу; выдае каталогі, альбомы, рэпрадукцыі, паштоўкі (сярод іх каталог «Беларуская народная тканіна», 1979). Філіялы і аддзелы-музеі: Гурынская карцінная галерэя (Мазырскі раён), Магілёўскі мастацкі музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі, *Раўбіцкі музей беларускага народнага мастацтва.*

*Ю. А. Карачун.*

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й БЕЛАРУ́СКАЙ ССР,** найбуйнейшае ў рэспубліцы сховішча гістарычных і прыродазнаўчанавуковых калекцый, помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры; метадычны цэнтр музейнай справы БССР. Заснаваны ў Мінску ў 1957. Адкрыты 2.11.1967. Мае 18 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 1687 $м^2$), больш за 230 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: прыроды, дасав. грамадства, Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва, навукова-метадычны, навукова-асветніцкі, пазамузейнай работы, фондаў. Тэматычныя раздзелы экспазіцыі: прырода, гісторыя першабытнаабшчыннага ладу, перыядў феадалізму і капіталізму, Рэвалюцыя 1905—07, Кастрычніцкая рэвалюцыя і грамадзянская вайна, сацыялістычнае будаўніцтва, Вял. Айч. вайна, аднаўленне нар. гаспадаркі, навукова-тэхнічны прагрэс, сельская гаспадарка, навука, культура, дабрабыт у сучасны перыяд. Калекцыі: археалагічная, нумізматычная, этнагр., ваенна-гіст., рукапісаў і старадрукаў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, мемарыяльных рэчаў, прыродазнаўчанавуковыя і інш. Зберагаюцца матэрыялы, якія характарызуюць культуру і побыт насельніцтва на розных этапах грамадска-эканам. развіцця. Сярод іх прадметы эпохі першабытнаабшчыннага ладу (рэшткі жытла з чэрапаў і касцей мамантаў, прылады працы, у т. л. з крэменездабыўных шахтаў, разнастайны земляробчы інвентар, рыбалоўныя і паляўнічыя прылады, арнаментаваныя вырабы з косці, скульптурныя выявы чалавека, птушак, жывёл, бронзавыя ўпрыгожанні з выемчатай каляровай эмаллю, керамічны посуд), творы сярэдневяковага рамяства і мастацтва з металу, шкла, бурштыну, сердаліку, дрэва, косці, рогу і інш. матэрыялаў: пацеркі, падвескі, бранзалеты, шыйныя грыўні, шахматныя фігуры, драўляная скульптура, слуцкія паясы, паліхромная кафля, урэцканалібоцкае шкло. У калекцыі музея больш за 80 манетна-рэчавых скарбаў, у т. л. дзягцянскі і гараўлянскі 11 ст. Значная калекцыя стараж. грамат і рукапісных кніг, старадрукаў 16—18 ст. У калекцыі этнагр. матэрыялаў 19—20 ст. шырока прадстаўлены прылады працы, драўлянае хатняе начынне, гліняны і медны посуд, узоры ткацтва, вышыўкі, вязання, вырабы з бяросты, саломкі, лазы. У зборы самая поўная на Беларусі калекцыя нар. адзення ўсіх этнагр. рэгіёнаў, калекцыі твораў традыцыйнага і сучаснага нар. мастацтва, у т. л. *агоўская куфры, благаўская кераміка, гараднянская кераміка, гарадоцкая кераміка, дарасінская кераміка, дубровенская кераміка, івянецкая кераміка, крэўская кераміка, пагост-загародская кераміка, мотальскія ручнікі, неглюбскія ручнікі* і інш. Сярод экспанатаў дарэвалюцыйныя выданні прац бел. этнографаў і фалькларыстаў А. Я. Багдановіча, А. А. Грыневіча, М. В. Доўнар-Запольскага, Я. Ф. Карскага, М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава і інш. На базе этнагр. калекцыі музеем створаны выстаўкі «Народнае мастацтва Беларусі», «Народны касцюм Беларусі», якія экспанаваліся ў Маскве, Ленінградзе, Вільнюсе, Ноўгарадзе, Сімферопалі і інш., за мяжой (Францыя). Пры музеі навуковая бібліятэка, фотатэка, рэстаўрацыйная майстэрня. Філіял: *Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў.*

*І. П. Загрышаў, С. А. Мілючэнкаў.*

**ДЗЯРУ́ГА,** радзюшка, посцілка з грубай ільнянай пражы, вытканая ў 4 ніты і сшытая ў 2 полкі. У паўн.-ўсх., усх. і паўд. р-нах Беларусі вядома Дз., пашытая ў выглядзе мяшка (2 Дз. сшывалі з трох бакоў). Такая Дз. была даволі цёплай і служыла коўдрай.

**ДЗЯСНІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура мезалітычных (8—5-е тысячагоддзі да н. э.) і неалітычных (2-я пал. 4-га — 3-е тысячагоддзе да н. э.) плямён, якія жылі ў басейне Дзясны і на У Пасожжа. Насельніцтва займалася паляваннем і рыбалоўствам. Паселішчы складаліся з некалькіх жытлаў, размяшчаліся на ўзвышаных участках рачных тэрас, часам на мысах і пясчаных узгорках плошчаю 300—600 $м^2$. Жытлы драўляныя, наземныя або ледзь заглыбленыя ў зямлю, авальнай або прамавугольнай формы плошчай 10—20 $м^2$ звычайна размяшчаліся ланцужком за 5—10 м адно ад аднаго. Агнішчы размяшчаліся ў цэнтры жытла на падлозе або ў спецыяльна выкапаным паглыбленні круглай формы. Побач з жытламі былі гаспадарчыя ямы і месцы апрацоўкі крэменю і вырабу керамічнага посуду. Насельніцтва выраблялa грубыя гліняныя гаршкі яйцападобнай формы, якія ўпрыгожваліся глыбокімі круглымі, авальнымі або ромбападобнымі ямкамі па ўсёй паверхні, паясамі, пазней — зонамі (ромбы, трохвугольнікі). Ямкі адціскаліся ў шахматным парадку, аднастайнасць узораў парушалася часам паяскамі грабеньчатых буйназубчатых адбіткаў. На познім этапе пад уплывам *верхнедняпроўскай культуры* арнаментацыя ямкавых адбіткаў стала больш разнастайнай. Выкарыстанне адступаючай лапаткі, адціскание канцом палачкі, абматанай шнурком, ствapала складаныя геаметрычныя арнаменты — да 10 арнаментальных сістэм.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ДЛУ́ГАШ** (Długosz) Ян (1415, г. Бжазніца, ПНР — 19.5.1480), польскі гісторык, дыпламат, рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі (1428—31). Кракаўскі канонік (з 1436), архіепіскап львоўскі (1480). Аўтар агіяграфічных і гіст. прац. Асноўны твор — «Гісторыя Польшчы», інакш «Летапісы, або Хронікі слаўнага Каралеўства Польскага» (12 кніг на лац. мове; 1-е выд. часткі 1614—15, поўнасцю 1701—02). Апісвае падзеі ад старажытнасці да 1480. Першая ў Польшчы навуковая гістарычная праца, напісаная на падставе дакументальных крыніц (у т. л. еўрапейскіх хронік, стараж.-рускіх і бел.-літоўскіх летапісаў), успамінаў сведак падзей, асабістых уражанняў. На аснове параўнальнага аналізу гіст. крыніц, легенд, паданняў, фальклору прапанаваў тыповыя для эпохі сярэднявечча канцэпцыі паходжання народаў і саслоў-

ва-рамесным людам. У час небяспекі на Дз. і ў вакольным горадзе хаваліся жыхары адкрытых пасадаў і бліжэйшых сельскіх паселішчаў. 2) Месца ў царкоўным прытворы, дзе стаялі жабракі. 3) Агароджаны пляц, двор пры якой-небудзь вялікай пабудове (гаспадарчай, жылой і інш.). *Я. Г. Звяруга.*

**ДЗЯ́ДЗЬКА,** 1) бацькаў або матчын брат; цётчын муж. 2) Дарослы мужчына наогул; форма звароту да старэйшага ўзростам мужчыны.

**ДЗЯДЗЬКАВА́ННЕ,** звычай аддаваць дзяцей шляхты на выхаванне ў сялянскую сям'ю. Быў пашыраны на бел. землях у канцы 16—18 ст. і выкліканы жаданнем выхаваць у дзяцей станоўчыя фізічныя і духоўныя якасці простага народа: працавітасць, сілу, вынослівасць, непераборлівасць у ядзе і адзенні, любоў да зямлі.

**ДЗЯДО́К,** вертыкальны апорны элемент каркаснай канструкцыі *страхі.* Падтрымлівае вільчыкавы брус і апіраецца на бэлькі і папярочныя сцены. Калі Дз. ставілі на папярочныя сцены, ён стварае канструкцыйную аснову шчыта двухсхільнай страхі. У Дз. рабілі пазы, дзе мацаваліся дошкі (бярвёны) шчыта. Страха на Дз.— удасканаленне страхі на сошках. Найбольш пашыраны ў канцы 19— пач. 20 ст. на Паазер'і, Падняпроўі, у Цэнтр. Беларусі. *С. А. Сергачоў.*

**ДЗЯДЫ́,** народны памінальны абрад, рытуальная вячэра ў памяць памерлых родзічаў. Дз. называлі таксама дзень, калі адбываўся абрад, і нябожчыкаў, якіх ушаноўвалі. Паходзяць Дз. ад дахрысціянскага ўсх.-слав. звычаю трызны; звязаны з *культам продкаў.* Пазней абрад ускладніўся напластаваннем хрысціянскага культу. Дз. спраўлялі ў пэўныя дні 3—4 і больш разоў на год (у залежнасці ад мясцовасці) вясною і ўвосень. Галоўнымі былі Дз. зміраўскія *(асяніны)* — у суботу перад Змітравым днём (26 кастр. с. ст.), на *радаўніцу,* а таксама перад *масленіцай, сёмухай.* На Дз. гатавалі святочныя і абрадавыя стравы (абавязковымі былі куцця, бліны, клёцкі, ячння, мяса). Паводле звычаю, ад кожнай стравы сімвалічна адкладвалі ў асобны посуд частку нябожчыкам.

**ДЗЯЖА́,** д з е ж к а, х л е б н і ц а, пасудзіна для заквашвання цеста, бандарны выраб. Лакальная назва квашня. Мела форму звужанай кверху шырокай бочачкі (вышыня звычайна раўнялася дыяметру вусця, аб'ём 20—30 л), накрыўка (вечка) з абечкам. Дз. малых памераў (дзежка,ці блінніца) служыла для заквашвання цеста на бліны. Рабілі Дз. звычайна з дубовых клёпак, часам з хваёвых (тады ставілі 2—3 дубовыя клёпкі, дуб паскараў працэс квашання і надаваў цесту лёгкі спецыфічны водар). Функцыянальнае выкарыстанне Дз. цесна звязана з культам хлеба, абумоўлівала яе асаблівае значэнне сярод хатняга начыння і прадметаў ужытку. У інтэр'еры сялянскай хаты Дз. адводзілі пачэснае месца: ставілі на покуці пад абразамі, накрывалі ручніком-«набожнікам». Яна выконвала важную ролю ў абрадзе *вяселля.* Благаслаўляючы на шлюб, нявесту з расплеценай касой пад гукі вясельных песень цырымонна садзілі на Дз. (на пасад). Гэты агульнаслав. звычай сімвалізаваў уступленне ў пару жыццёвай сталасці. Накрыўку Дз. выкарыстоўвалі на ўрачыстым паднашэнні хлеба-солі, каравая і інш. Пры наваселлі Дз. ўрачыста ўносілі ў дом у ліку першых рэчаў. Перш чым скарыстаць новую Дз., яе «прыручалі»: ставілі на суткі побач са старой на адной посцілцы пад адной покрыўкай. У сельскай мясцовасці бытавала да сярэдзіны 20 ст. *В. С. Цітоў.*



Дзежка-блінніца.



**Дзяннік.** Вёска Камаі Пастаўскага раёна.

**ДЗЯННІ́К,** частка сялянскага *двара,* дзе свойская жывёла магла знаходзіцца днём. У большасці раёнаў гэта адкрытая пляцоўка перад уваходам у хлявы. У вяночных дварах Падняпроўя Дз. агароджвалі плотам. На Паазер'і Дз.— важны функцыянальна-планіровачны элемент сялянскай сядзібы. Тут яго аб'ядноўвалі з хлявамі ў адзін будынак, накрыты агульнай страхою. На Дз. вялі адны або двое варот, якія стваралі скразны праезд на агарод, у сад. Праз спецыяльныя дзверы Дз. злучаўся з сенцамі. Непасрэдная сувязь жылой часткі праз Дз. з хлявамі — адметная рыса нар. будаўніцтва на Пн Беларусі. Часам тут рабілі акно з хаты ў Дз. (над палком, дзе спалі гаспадар і дарослыя члены сям'і). *С. А. Сергачоў.*

**ДЗЯРЖА́ВІН** Мікалай Севасцьянавіч [3.(15).12.1877, с. Прэслаў Запарожскай вобл.— 26.2.1953], савецкі філолаг, гісторык, грамадскі дзеяч. Акад. АН СССР (1931), ганаровы чл. АН БССР і Балг. АН. Чл. КПСС з 1945. Вучыўся ў Пецярбургскім ун-це (1896—97), Нежынскім гісторыка-філалагічным ін-це (1897—1900). З 1922 рэктар, у 1925—53 заг. кафедры слав. філалогіі Ленінградскага ун-та. У 1931—34 дырэктар Ін-та славяназнаўства АН СССР (Ленінград). Працы па этнагенезу славян, гісторыі і культуры Балгарыі, гісторыі рускай літаратуры і інш. У даследаванні «Паходжанне рускага народа. Велікарускага, украінскага, беларускага» (1944), разглядаючы гісторыю ўсх.-слав. народаў, прытрымліваўся тэорыі аўтахтоннасці славян, лічыў, што беларусы і іх мова сфарміраваліся на базе слав. субстрату, які ўтварыўся ў выніку «племянных скрэшчванняў паўднёварускіх д р а ў л я н з сярэднярускімі д р ы г а в і ч а м і і сярэднярускіх р а д з і м і ч а ў з усходнярусамі в я ц і ч а м і і часткова к р ы в і ч о ў»

(с. 90). Выказаў гіпатычную думку, што ў стараж. часы тэр. Беларусі была заселена не літоўскімі і не славянскімі плямёнамі, а плямёнамі, на аснове якіх складаліся зародкавыя пралітоўскія і праславянскія племянныя ўтварэнні, з якіх пазней стварыліся літоўска-латышскія і слав. плямёны, а з апошніх вырас бел. народ. У фарміраванні ўсх.-слав. народнасцей важнае месца адводзіў сацыяльна-эканам. фактарам, выводзіў рускі, укр. і бел. этнасы непасрэдна з племянных фарміраванняў. У працах Дз. па этнагенезу славян адчуваецца ўплыў погляду М. Я. Мара. Дзярж. прэмія СССР 1948.

*Тв.:* Славяне в древности. М., 1946; История Болгарии. Т. 1—4. М.; Л., 1945—48.

*Літ.:* Список трудов академика Н. С. Державина в области славяноведения (1898—1952)//Краткие сообщения Ин-та славяноведения АН СССР. 1953. Вып. 11.

*В. К. Бандарчык.*

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ МАСТА́ЦКІ МУЗЕ́Й БССР,** рэспубліканскі музей выяўленчага мастацтва. Заснаваны ў Мінску ў 1939 (да 1957 Дзярж. карцінная галерэя). Аснову калекцыі склалі творы бел., рускіх і замежных мастакоў, а таксама вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія да Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіліся ў прыватнай уласнасці буйных бел. магнатаў. У Айч. вайну музей разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вайны знойдзена і вернута невялікая колькасць экспанатаў. Музей зноў адкрыты ў 1945 пасля стварэння новых фондаў. У 10 экспазіцыйных залах (плошча 1749 м$^2$), фондах (плошча 421 м$^2$) музея і яго філіялаў больш за 20 тыс. твораў (1988). Вял. калекцыя бел. мастацтва 16—20 ст. (абразы, стараж. драўляная скульптура, вырабы прыкладнога мастацтва), жывапісу, скульптуры і графікі дарэвалюцыйнага часу. Сярод іх узоры бел. нар. ткацтва (посцілкі, дываны, ручнікі, абрусы, паясы, фартухі, сярмягі, наміткі, чапцы, хусткі, гарсэты і інш.), керамікі. Найбольш поўна паказана ў музеі творчасць бел. сав. мастакоў. У экспазіцыі і фондах творы рускіх мастакоў 18— пач. 20 ст. Захоўваюцца калекцыі мастацтва Зах. Еўропы і краін Усходу. Музей праводзіць вял. навукова-даследчую, збіральніцкую і папулярызатарскую работу; выдае каталогі, альбомы, рэпрадукцыі, паштоўкі (сярод іх каталог «Беларускія народныя тканіны», 1979). Філіялы і аддзелы-музеі: Гурынская карцінная галерэя (Мазырскі раён), Магілёўскі мастацкі музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі, *Раўбіцкі музей беларускага народнага мастацтва.*

*Ю. А. Карачун.*

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й БЕЛАРУ́СКАЙ ССР,** найбуйнейшае ў рэспубліцы сховішча гістарычных і прыродазнаўчанавуковых калекцый, помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры; метадычны цэнтр музейнай справы БССР. Заснаваны ў Мінску ў 1957. Адкрыты 2.11.1967. Мае 18 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 1687 м$^2$), больш за 230 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: прыроды, дасав. грамадства, Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва, навукова-метадычны, навукова-асветніцкі, пазамузейнай работы, фондаў. Тэматычныя раздзелы экспазіцыі: прырода, гісторыя першабытнаабшчыннага ладу, перыядаў феадалізму і капіталізму, Рэвалюцыя 1905—07, Кастрычніцкая рэвалюцыя і грамадзянская вайна, сацыялістычнае будаўніцтва, Вял. Айч. вайна, аднаўленне нар. гаспадаркі, навукова-тэхнічны прагрэс, сельская гаспадарка, навука, культура, дабрабыт у сучасны перыяд. Калекцыі: археалагічная, нумізматычная, этнагр., ваенна-гіст., рукапісаў і старадрукаў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, мемарыяльных рэчаў, прыродазнаўчанавуковая і інш. Зберагаюцца матэрыялы, якія характарызуюць культуру і побыт насельніцтва на розных этапах грамадска-эканам. развіцця. Сярод іх прадметы эпохі першабытнаабшчыннага ладу (рэшткі жытла з чэрапаў і касцей мамантаў, прылады працы, у т. л. з крэменездабыўных шахтаў, разнастайны земляробчы інвентар, рыбалоўныя і паляўнічыя прылады, арнаментаваныя вырабы з косці, скульптурныя выявы чалавека, птушак, жывёл, бронзавыя ўпрыгожанні з выемчатай каляровай эмаллю, керамічны посуд), творы сярэдневяковага рамяства і мастацтва з металу, шкла, бурштыну, сердаліку, дрэва, косці, рогу і інш. матэрыялаў: пацеркі, падвескі, бранзалеты, шыйныя грыўні, шахматныя фігуры, драўляная скульптура, слуцкія паясы, паліхромная кафля, урэцкае налібоцкае шкло. У калекцыі музея больш за 80 манетна-рэчавых скарбаў, у т. л. дзягцянскі і гараўлянскі 11 ст. Значная калекцыя стараж. грамат і рукапісных кніг, старадрукаў 16—18 ст. У калекцыі этнагр. матэрыялаў 19—20 ст. шырока прадстаўлены прылады працы, драўлянае хатняе начынне, гліняны і медны посуд, узоры ткацтва, вышыўкі, вязання, вырабы з бяросты, саломкі, лазы. У зборы самая поўная на Беларусі калекцыя нар. адзення ўсіх этнагр. рэгіёнаў, калекцыі твораў традыцыйнага і сучаснага нар. мастацтва, у т. л. *агоўскія куфры, благаўская кераміка, гарадзянская кераміка, гарадоцкая кераміка, дарасінская кераміка, дубровенская кераміка, івянецкая кераміка, крэўская кераміка, пагост-загародская кераміка, мотальскія ручнікі, неглюбскія ручнікі* і інш. Сярод экспанатаў дарэвалюцыйныя выданні прац бел. этнографаў і фалькларыстаў А. Я. Багдановіча, А. А. Грыневіча, М. В. Доўнар-Запольскага, Я. Ф. Карскага, М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава і інш. На базе этнагр. калекцыі музеем створаны выстаўкі «Народнае мастацтва Беларусі», «Народны касцюм Беларусі», якія экспанаваліся ў Маскве, Ленінградзе, Вільнюсе, Ноўгарадзе, Сімферопалі і інш., за мяжой (Францыя). Пры музеі навуковая бібліятэка, фотатэка, рэстаўрацыйная майстэрня. Філіял: *Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў.*

*І. П. Загрышаў, С. А. Мілючэнкаў.*

**ДЗЯРУ́ГА,** радзюшка, посцілка з грубай ільняной пражы, вытканая ў 4 ніты і сшытая ў 2 полкі. У паўн.-ўсх., усх. і паўд. р-нах Беларусі вядома Дз., пашытая ў выглядзе мяшка (2 Дз. сшывалі з трох бакоў). Такая Дз. была даволі цёплай і служыла коўдрай.

**ДЗЯСНІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура мезалітычных (8—5-е тысячагоддзі да н. э.) і неалітычных (2-я пал. 4-га — 3-е тысячагоддзе да н. э.) плямён, якія жылі ў басейне Дзясны і на У Пасожжа. Насельніцтва займалася паляваннем і рыбалоўствам. Паселішчы складаліся з некалькіх жытлаў, размяшчаліся на ўзвышаных участках рачных тэрас, часам на мысах і пясчаных узгорках плошчаю 300—600 м$^2$. Жытлы драўляныя, наземныя або ледзь заглыбленыя ў зямлю, авальнай або прамавугольнай формы плошчай 10—20 м$^2$ звычайна размяшчаліся ланцужком за 5—10 м адно ад аднаго. Агнішчы размяшчаліся ў цэнтры жытла на падлозе або ў спецыяльна выкапаным паглыбленні круглай формы. Побач з жытламі былі гаспадарчыя ямы і месцы апрацоўкі крэменю і вырабу керамічнага посуду. Насельніцтва выраблялa грубыя гліняныя гаршкі яйцападобнай формы, якія ўпрыгожваліся глыбокімі круглымі, авальнымі або ромбападобнымі ямкамі па ўсёй паверхні, паясамі, пазней — зонамі (ромбы, трохвугольнікі). Ямкі адціскаліся ў шахматным парадку, аднастайнасць узораў парушалася часам паяскамі грабеньчатых буйназубчатых адбіткаў. На познім этапе пад уплывам *верхнедняпроўскай культуры* арнаментацыя ямкавых адбіткаў стала больш разнастайнай. Выкарыстанне адступаючай лапаткі, адціканне канцом палачкі, абматанай шнурком, стварала складаныя геаметрычныя арнаменты — да 10 арнаментальных сістэм.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ДЛУ́ГАШ** (Dlugosz) Ян (1415, г. Бжазніца, ПНР —19.5.1480), польскі гісторык, дыпламат, рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі (1428—31). Кракаўскі канонік (з 1436), архіепіскап львоўскі (1480). Аўтар агіяграфічных і гіст. прац. Асноўны твор — «Гісторыя Польшчы», інакш «Летапісы, або Хронікі слаўнага Каралеўства Польскага» (12 кніг на лац. мове; 1-е выд. часткі 1614—15, поўнасцю 1701—02). Апісвае падзеі ад старажытнасці да 1480. Першая ў Польшчы навуковая гістарычная праца, напісаная на падставе дакументальных крыніц (у т. л. еўрапейскіх хронік, стараж.-рускіх і бел.-літоўскіх летапісаў), успамінаў сведак падзей, асабістых уражанняў. На аснове параўнальнага аналізу гіст. крыніц, легенд, паданняў, фальклору прапанаваў тыповыя для эпохі сярэднявечча канцэпцыі паходжання народаў і саслоў-

на-класавых груп феадальнага грамадства Полыпчы і Вял. кн. Літоўскага. Твор — каштоўная крыніца па паліт. і этнічнай гісторыі палякаў, беларусаў, літоўцаў, рускіх, украінцаў і інш. народаў Цэнтр. і Усх. Еўропы.

*І. У. Чаквін.*

**ДНЕ́ПРА-ДАНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, грабеньчата-накольчатай керамікі культура, археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў 2-й пал. 5-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. насялялі тэрыторыю ад сярэдняга цячэння Прыпяці, Случы, Гарыні, Бярэзіны і Іпуці да сярэдняга цячэння Северскага Данца. Насельніцтва займалася рыбалоўствам, паляваннем і збіральніцтвам, зараджаліся земляробства і жывёлагадоўля. Паселішчы даўжынёю да 300 м размяшчаліся ў далінах рэк, каля вадаёмаў на ўзвышэннях поймы і каля краёў 1-й надпоймавай тэрасы, складаліся з 1—8 драўляных, наземных або ледзь заглыбленых у зямлю жытлаў плошчаю 10—50 м$^2$, якія размяшчаліся ланцужком. Пасярэдзіне жытлаў былі адкрытыя агнішчы. Найбольш стараж. жытлы памерам 3—4×3 м мелі авальную форму, пазней пашырыліся прамавугольныя памерам ад 3×2 да 8×7 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Калектыўныя пахаванні ў вялікіх ямах-магільніках змяніліся адзінкавымі пахаваннямі ў авальных і прамавугольных магілах, нябожчыкаў абсыпалі вохрай. На раннім этапе насельніцтва выраблялa шыракагорлыя вастрадонныя пасудзіны з высокай канічнай ніжняй часткай (у гліну дабаўлялі раслінныя дамешкі, шамот, потым пясок і жарству). Пазней побач з разнамерным вастрадонным посудам ужываўся пласкадонны, з крыху адагнутым патоўшчаным венчыкам, упрыгожаны дробназубчастым, накольчатым, лапчастым арнаментам. У арнаментацыі керамікі вылучана 28 кампазіцый — ад рэдкіх суцэльных, паясных або сеткападобных да густых папярочна-паясных у спалучэнні з дыяганальнымі і шахматнымі зонамі, паясамі звіслых трохвугольнікаў, прамавугольнікаў, ромбаў. На познім этапе Д.-д. к. занальныя ўзоры ўскладнены ялінкападобнымі матывамі, патроснымі радамі; асобныя зоны падкрэслены акаймаваннямі з разнародных элементаў. На адным гаршку выяўлена міфалагічная сцэнка «мужчына і качка». Сярод упрыгожанняў — падвескі з прасвідраваных зубоў аленя, пласціны з іклаў дзіка, кольцападобныя, цыліндрычныя, шарападобныя пацеркі або праніזкі з каменю і ракавін. У арнаментацыі Д.-д. к. шукаюць вытокі бел. геаметрычных арнаментаў.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ДНЕ́ПРА-ДЗВІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура балцкіх плямён 8 ст. да н. э.— 4 ст. н. э., якія жылі ў Верхнім Падняпроўі, Верхнім і Сярэднім Падзвінні, у вярхоўях Акі і на левых прытоках р. Вялікай. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем і рыбалоўствам; жыло на ўмацаваных гарадзішчах, якія храналагічна падзяляюцца на ранняя і позняя. Жыхары ранніх гарадзішчаў будавалі доўгія жытлы слупавой канструкцыі, якія мелі некалькі памяшканняў з адкрытымі агнішчамі, ужывалі касцяныя коп'і, стрэлы, шылы, вастры, шпількі і інш. На позніх гарадзішчах будавалі невялікія хаты зрубнай і слупавой канструкцыі, ужывалі жалезныя і бронзавыя сякеры, сярпы, нажы, шпількі, грыўні шыйныя, падвескі, пярсцёнкі і інш. Кераміка гладкасценная слабапрафіляваная і слоікападобнай формы.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**«ДО́ЖДЖЫК»**, традыцыйны танец. Асноўны ход — просты ці пераменны крок з прытупам ці прыстаўленнем нагі. На Гродзеншчыне дзяўчаты танцавалі ўзняўшы ўверх правую руку з хустачкай, махалі ёй у такт музыкі ці патрэсвалі ўзнятымі над галавой рукамі; на Гомельшчыне салістка ў цэнтры круга танцавала з хустачкай і прыпявала:

Дождж ідзе, дождж ідзе,
Да яшчэ будзе.
А дзе мой мілёначак
Начаваць будзе?

Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК.

*Ю. М. Чурко.*

**ДО́ЙЛІДЫ**, майстры-будаўнікі. Кіраваліся ў сваёй творчасці традыцыямі *народнага дойлідства.* Узначальвалі работу па ўзвядзенні пэўнага аб'екта. Карані дойлідскага мастацтва — у цэхавым спосабе вытворчасці. Вядомы дойлідскія арцелі, якія аб'ядноўвалі Д. і цесляроў — выканаўцаў іх задум. «Перахожыя» дойлідскія арцелі вядомы з часоў Кіеўскай Русі, з 12 ст. стваралісь ў буйных княжацкіх цэнтрах [значныя асяродкі Д.— Полацк (кіраўніком, відаць, быў вядомы дойлід Іаан) і Гродна]. Пазней буйныя гарады і манастыры таксама мелі сваіх Д., а з 16 ст. існавалі Д. пры замках і сядзібах магнатаў у невялікіх гарадах і мястэчках. З 16 ст. вядома пасада т. зв. замкавага Д. (былі ва ўсіх замках). Захавалася імя Д. замка ў Давыд-Гарадку Івана Буяковіча (1-я пал. 17 ст.), над кіраўніцтвам якога будаваўся гэты замак. У маёнтках феадалаў Д. былі пераважна вольнымі, сяліліся ў гарадах, мястэчках і вёсках, за сваю «службу дойлідскую» атрымлівалі пляцы і зямлю ў пана ці магната. Д. значацца ў многіх «падымных рэестрах» 16—18 ст. Існавалі спецыяльныя дойлідскія паселішчы, напр., в. Дойліды (Іўеўскі р-н), дзе інвентар 1634 называе 12 дойлідскіх двароў («цяглых», г. зн. прыгонных, належалі сядзібе ў Іўі). Прыгонныя дойлідскія паселішчы сустракаліся не часта. Асяродкі Д. фарміравалі свой асаблівы стыль, на аснове якога склаліся розныя школы дойлідства. У 12 ст. сфарміраваліся полацкая і гродзенская школы, у 17—18 ст. найб. адметнымі былі віцебская, магілёўская і палеская школы дойлідства. Яны ўнеслі яркія, своеасаблівыя рысы ў бел. архітэктуру, што зрабіла яе прыкметнай з'явай сусветнай архітэктуры таго часу. З 2-й пал. 18 ст. творчасць Д. пачала звужацца, што абумоўлена будаўніцтвам паводле тыпавых праектаў і заняпадам мясцовых дойлідскіх школ. Д. працавалі пераважна ў галіне драўлянага будаўніцтва, некаторыя з іх узводзілі і мураваныя збудаванні. Д. будавалі сядзібныя дамы, капліцы, невялікія цэрквы, у якіх збераглі нар. традыцыі. У 19 ст. сфера дзейнасці Д. настолькі скарацілася, што яны фактычна зніклі і зліліся з цеслярамі. У наш час Д. называюць архітэктара, які не толькі валодае прафесійнымі ведамі, але і здольны вырашаць шырокія задачы горадабудаўніцтва і архітэктуры.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДО́ЛАТА**, дрэваапрацоўчы інструмент для выдаўбвання розных адтулін і паглыбленняў. Найбольш простая форма Д.— жалезны штыр з завостраным з аднаго боку краем (шырока сустракаецца ў археалагічных раскопках стараж. бел. гарадоў). Больш сучасная форма Д.— жалезны штыр з прамым, часам авальным профілем вострага ляза і насаджанай на другі канец ударнай ручкай. Шырока ўжываецца ў сталярным і цяслярным рамёствах.

**ДО́ЛЬНІКІ**, катэгорыя сялян у 14—16 ст. За арэнду зямлі плацілі феадалу-землеўладальніку долю ўраджаю (пазней называліся здольнікі). Доля вызначалася памешчыкам, часам даходзіла да 50—75 %. З выплатай паловы ўраджаю звязана паходжанне тэрміна палоўнікі. У 16—18 ст. на Бел. Падзвінні за карыстанне зямлёй землеўладальнік забіраў у селяніна кожны чацвёрты сноп збожжа.

**ДОМ СЯМЕ́ЙНЫХ УРАЧЫ́СТАСЦЕЙ.** Прызначаны для правядзення сямейных і асабістых свят і абрадаў (вяселляў, юбілеяў, праводзін на службу ў Савецкую Армію, на заслужаны адпачынак і інш.). Мае некалькі залаў розных памераў. Пры адсутнасці заказаў на сямейныя ўрачыстасці залы здаюцца працоўным калектывам для правядзення перадсвяточных вечароў адпачынку. Першыя Д. с. у. з'явіліся ў рэспубліцы ў 1970-я г. Асноўны від іх паслуг — арганізацыя святочных застолляў; па дагавору могуць прадастаўляць музыкантаў, распарадчыка застолляў (тамаду), фатографа, аказваць паслугі па набыццю білетаў на міжгародні транспарт, нумароў у гасцініцах, даваць напракат посуд і інш. рэчы, неабходныя для правядзення абрадаў. Абавязковае абрадавае дзеянне ў Д. с. у.— урачыстая сустрэча ў час вяселля маладых бацькамі і гасцямі з хлебам-солдю, адорванне маладых. Рытуал святочных застолляў, напаўненне яго абрадавымі дзеяннямі, культурна-забаўляльнымі элементамі залежыць ад падрыхтаванасці тамады і абрадавай творчасці гасцей.

*І. М. Браім.*

**ДОМ ШЛЮ́БУ**, Палац шлюбу, установа для ўрачыстай рэгістрацыі

шлюбу. Мае пакоі падачы заяў, жаніха і нявесты, залы рэгістрацыі, пакой для віншаванняў. Рэгістрацыя праводзіцца па новых абрадах. Уступленне ў шлюб замацоўваецца роспісамі жаніха і нявесты і іх сведкаў у спецыяльнай кнізе. Маладжоны абменьваюцца заручальнымі пярсцёнкамі, ім выдаецца пасведчанне аб шлюбе. Рэгістрацыя шлюбу суправаджаецца музыкай, фатаграфаваннем, кіназдымкай. Маладых віншуюць афіцыйныя асобы, прадстаўнікі грамадскасці, блізкія і сябры. Першы на Беларусі Д. ш. створаны ў 1965 у Мінску, пазней — ва ўсіх абласных цэнтрах і некаторых інш. гарадах. Урачыстыя рэгістрацыі маладажонаў праводзяць таксама ў загсах, выканкомах сельскіх Саветаў нар. дэпутатаў. *І. М. Браім.*

**ДО́НКА**, вуда без паплаўка для лоўлі рыбы з дна вадаёма, донная вуда. На канец лёскі прывязваецца грузіла, якое кладзецца на дно. У час клёву вудзільна паторгваецца. Пры лоўлі з берага замест вудзільна выкарыстоўваюць убіты ў дно вадаёма калок, да якога мацуюць закінутую ў вадаём лёску з адным або некалькімі кручкамі (закідонка). Для кантролю за снасцю да лёскі прывязваюць розныя падвескі (цяпер — званочкі). Лоўля Д. была пашырана пераважна ў асяроддзі гарадскіх рыбаловаў. У наш час ёю ловяць і сельскія жыхары. *І. М. Браім.*



М. В. Доўнар-Запольскі.

**ДО́ЎЖАНЬ**, дубовы брусок са скошанымі краямі, які шчыльна закрываў *доўжню* (уваход) у борць або калоды вулей. Называўся таксама длужня. Д. старанна дапасоўвалі па памерах борці або калоды. У некаторых рэгіёнах Д. рабілі з двух частак — верхняй і ніжняй.

**ДО́ЎЖНЯ**, прамавугольная адтуліна (памерам 60×14 см) у борці, калодзе, праз якую бортнік меў доступ у іх сярэдзіну пры доглядзе пчол і падрэзцы мёду. Называлася таксама даўжнік, доўж, лазейка, тварка, века.

**ДОЎНАР-ЗАПО́ЛЬСКІ** Мітрафан Віктаравіч (14.6.1867, г. Рэчыца — 1934), беларускі гісторык, этнограф і фалькларыст. Доктар гіст. навук (1905), праф. (1902). Вучыўся ў Мінскай гімназіі, Мазырскай прагімназіі, з Кіеўскай гімназіі выключаны за ўдзел у тайных гуртках і распаўсюджванне нелегальнай літаратуры. Скончыў Кіеўскі ун-т (1894). У сувязі з забаронай педагагічнай дзейнасці ў Кіеўскай навучальнай акрузе з 1898 працаваў у Маскве ў архіве Міністэрства юстыцыі, прыватдацэнтам Маскоўскага ун-та. Пасля абароны магістэрскай дысертацыі «Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах» (1901) працаваў у Кіеўскім ун-це, дзе абараніў доктарскую дысертацыю «Нарысы па арганізацыі заходнярускага сялянства ў XVI ст.». З 1906 в. а. дырэктара стваронных ім камерцыйных курсаў (пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Ін-т нар. гаспадаркі), кіраваў т-вамі аматараў сацыяльных ведаў, Нестара-летапісца і інш. З 1920 выкладчык Харкаўскага ін-та нар. гаспадаркі, з 1922 праф. Азербайджанскага ун-та, дырэктар с.-г. і гандлёвага музея Азербайджанскай ССР і начальнік кіраўніцтва прамысловасці і гандлю Наркамата прамысловага гандлю Азербайджанскай ССР. З 1925 правадзейны член, кіраўнік гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта і праф. БДУ. З 1926 у Маскве, праф. с.-г. акадэміі імя Ціміразева, выкладчык Ін-та нар. гаспадаркі імя Пляханава. Апублікаваў больш за 150 навуковых прац па сацыяльна-эканам. становішчы Беларусі і Літвы, дзекабрысцкаму руху, паліт. становішчы Расіі і гісторыі нар. гаспадаркі, а таксама па бел. этнаграфіі, фальклору і літаратуры. Эклектычныя паводле метадалогіі яго працы багатыя фактычным матэрыялам. У ідэйна-паліт. поглядах вагаўся ад дэмакратызму і марксізму да буржуазнага лібералізму і нацыяналізму. Асноўныя працы па этнаграфіі і фальклору Беларусі напісаны ў 1880—90-я г. з дэмакратычных пазіцый. Этнагр. даследаваннем адводзіў асноўнае месца пры вывучэнні гіст. працэсаў, падкрэсліваў, што «ў вывучэнні быту народаў і заключаецца галоўны інтарэс гісторыі». (Даследаванні і артыкулы. Кіеў, 1909, Т. 1. С. 345, на рус. мове.) Матэрыялы для вывучэння побыту і культуры беларусаў збіраў у час сваіх вандраванняў па Беларусі, экспедыцыі 1890—91 па даручэнню Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі і з дапамогай карэспандэнтаў, для якіх распрацаваў праграмы (настаўнікам Мінскай губ., у 1893 праграму-заклік «Значэнне этнаграфічнага вывучэння Гродзенскай губерні»). У карэспандэнцыі «Ад Кіева да Рагачова» (Минский листок. 1887. № 64) Д.-З. ад імя бел. селяніна патрабаваў друкаваць літаратурныя творы на роднай мове, у арт. «Навіны беларускай навукі» (Виленский вестник. 1889. № 81) заклікаў стварыць на Беларусі навуковыя т-вы, адкрыць ун-т, вывучаць усе бакі культуры і побыту бел. народа, а ў серыі артыкулаў «Нататкі з вандраванняў па Беларусі» (Виленский вестник. 1890—91) побач з апісаннем жыцця бел. вёскі намаляваў жахі капіталістычнай эксплуатацыі сялян-адыходнікаў, выступаў супраць фальсіфікатараў культуры беларусаў. У працах па этнаграфіі апісваў сямейны побыт, звычаёвае права, вясельныя звычаі і абрады беларусаў («Беларускае вяселле і вясельныя песні», 1888; «Звычаёвае сямейнае права сялян Мінскай губерні», 1897; «Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках», 1893; «Матывы вясельных песень пінчукоў», 1893; «Рытуальнае значэнне каравайнага абраду ў беларусаў», 1900; і інш.). Важнейшыя працы пра побыт і культуру беларусаў сабраны ў зб. «Даследаванні і артыкулы» (т. 1, 1909). Збіраў фальклор, частку запісаў апублікаваў у зб. «Песні пінчукоў» (1895). У 1897 выдаў «*Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі*». Высока цаніў творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, І. Неслухоўскага, Я. Купалы, навуковую дзейнасць А. Пыпіна, Я. Карскага і інш. дзеячаў бел. культуры. Значная частка сабраных ім фальклорна-этнагр. матэрыялаў не апублікавана. У архіве Геагр. т-ва СССР (Ленінград) захоўваецца зборнік бел. казак (82), запісаных Д.-З. і яго карэспандэнтам П. П. Дземідовічам, матэрыялы пра вераванні беларусаў з уступным арт. «Нататкі па беларускай этнаграфіі». Частка матэрыялаў у ЦДГА УССР.

*Літ.:* Даўгяла З. Літаратурныя працы доктара рускай гісторыі Мітрафана Віктаравіча Доўнар-Запольскага ў храналагічным парадку за 45 год (1883—1928) // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 8. Працы класа гісторыі. Т. 3. Мн., 1929; Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. *В. К. Бандарчык.*

**ДРАБІ́НЫ**, 1) драўляныя нахіленыя рашоткі на сценах хлява, за якія закладвалі корм для жывёлы. 2) Драўляная прыстаўная лесвіца. Часцей за ўсё Д. рабілі з двух жэрдак, злучаных шэрагам калкоў-ступеняў. Пашыраны Д. з аднаго ствала дрэва, у якім высякалі ступені. 3) Лесвіца для пад'ёму на страху хаты. Слуп укопвалі ў зямлю, верхні канец яго падтрымліваў звычайную лесвіцу, накладзеную на страху хаты для пад'ёму да коміна. Найбольшае пашырэнне такая канструкцыя мела на Зах. Палессі. 4) Сялянскія калёсы са здымнымі рашотчатымі бакавінамі (гл. *Мажара*). *С. А. Сергачоў.*

**ДРАЗДО́ВІЧ** Язэп Нарцызавіч [1 (13).10.1888, б. засценак Пунькі, Глыбоцкі р-н — 1954], беларускі графік, жывапісец і скульптар. Вучыўся ў Віленскай мастацкай школе (1906—10). Выкладаў маляванне ў школах Зах. Беларусі. Заснавальнік мастацкай студыі пры Віленскай гімназіі (1927). У 1926—27 супрацоўнічаў у сатырыч-

ным час. «Маланка». Ранція творы (1907) — замалёўкі краявідаў Дзісеншчыны, алегарычныя карціны. Працаваў у галіне кніжнай графікі, скульптуры. У 1920-я г. ў графічнай серыі «Дзісеншчына» даў паэтычны вобраз Паўн. Беларусі («Стадолішча», «Вёска Лаўрынаўка», «Гараватка», «Пунькі», «Александрыя», «Стары вадапуск», «Над Дзісёнкай» і інш.), стварыў вялікія графічныя серыі, прысвечаныя пераважна стараж. замкавай архітэктуры Беларусі і Літвы («Глыбокае», «Мір», «Навагрудак і навагрудцы», «Крэва», «Ліда», «Гальшаны», «Гальшанскае гарадзішча» і інш.). У 2-й пал. 1930-х г. напісаў карціну «Селянін з панам цягаюцца», партрэты, пейзажы «Краявід з цягнікам», «Ласкова» і інш.,



**Драбіны.** Вёска Вялікі Рожан Салігорскага раёна.

у 1940-я г.— жывапісныя палотны з жыцця стараж. Полаччыны, серыю карцін пра жыццё і асветніцкую дзейнасць Ф. Скарыны. Этнаграфічна-пазнавальнае значэнне маюць шматлікія замалёўкі ўзораў нар. дойлідства, прылад працы і прадметаў побыту земляробаў, адзення. Маляваў насценныя дываны, адметныя арыгінальнай пабудовай кампазіцыі (сюжэтны малюнак у цэнтры з расліннай абрамоўкай). Аўтар навукова-папулярнай брашуры «Нябесныя бегі» (1931). Запісваў фальклор і апрацоўваў для слоўнікаў нар. лексіку Дзісеншчыны і Піншчыны.

*Літ.:* Ліс А. С. Вечны вандроўнік. Мн., 1984. *А. С. Ліс.*

**ДРА́КА,** традыцыйная снасць для лоўлі ментузоў зімой. Уяўляла сабой бліскучую металічную ўвагнутую пласцінку з укляпаным адным або некалькімі кручкамі, якую на шнуры апускалі ў палонку. Пагойдваннем пласцінкі прываблівалі рыбу, якую падчэплівалі кручком. У 19 — пач. 20 ст. лоўля рыбы Д. была пашырана на Браслаўшчыне.

**ДРА́КА,** д р а ч к а, 1) цяслярная металічная прылада з двума вострымі загнутымі канцамі для падгонкі бярвён, дэталей і інш. 2) Месца паміж лініямі, праведзенымі з дапамогай такой прылады на бервяне, дошцы.

**«ДРАМУ́ХА»,** танец-карагод. Вядомы ў некалькіх варыянтах, што маюць агульную кампазіцыйную пабудову. Выканаўца (Дрома) сядзіць у цэнтры круга і прадстаўляе чалавека, які спіць. Астатнія ўдзельнікі карагода звяртаюцца да яго з песняй:

Дрома дрэмле ў карагодзе
Пад кудзелем, пад шаўковым
седзючы.
Устань, Дрома, прадрэміся
Пад кудзелем, пад шаўковым
абудзіся...

У песні Дрому ўпрошваюць прачнуцца, абяцаюць, што бацька, маці, сястра і іншыя прывязуць яму падарункі, дакараюць за ляноту. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК амаль па ўсёй Беларусі. У некаторых рэгіёнах бытуе ў выглядзе танца пад назвай «Соня» ці «Сплюшка». На Палессі выконваецца ў цыкле вясновых карагодаў, у астатніх раёнах звязаны з купаллем. *А. Л. Варламаў.*

**ДРА́НІКІ,** д р а ч о н к і, б у л ь б я н і к і, бліны з бульбы. Лакальная назва драчы. Гатуюць з дранай (таркаванай) на тарцы бульбы, у якую часам дадаюць муку. Звычайна бульбу на Д. папярэдне чысцяць, але, калі яе мала, толькі мыюць і вычышчаюць вочкі. Пякуць вялікімі (на ўсю патэльню) або невялікімі накшталт аладак. Да Д. смажаць сала, робяць мачанне з тварагу і смятаны. Д. звычайна пякуць раніцай (калі паляць у печы) на снеданне, тыя Д., што застаюцца ад снедання, складаюць у макацёр (гаршчок, міску), заліваюць тукам або маслам, смятанай і ставяць у печ, у лёгкі дух. На Беларусі пашыраны паўсюдна. На Віцебшчыне пад назвай драчоны вядомы бліны з пшанічнай, змешанай з жытняй, мукі. *Г. Ф. Вештарт.*



**Драка.**

**ДРА́НКА,** д р а н і ц а, тонкія дошчачкі, якія дралі з калод разаком уручную або з прымяненнем сілы каня. Лакальная назва дор. Дралі Д. розных памераў і таўшчыні. Доўгія Д. называлі драњь. Д. абшывалі вароты, гарадзілі плот, крылі дах, абівалі сцены пад тынкоўку.

**«ДРАПА́К»,** імправізаваны танец. Лакальная назва «Драпачок». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Генетычна звязаны з рускім народным танцам «Трапак». Адрозніваецца ад яго своеасаблівай манерай выканання: у ім няма такога размаху і разнастайнасці рухаў, што ў рускім танцы. Асноўны рух — прытупы, што выконваюцца ў розных сінкапічных варыянтах і суправаджаюцца стрыманымі ўзмахамі рук. Часам танец выконваецца энергічна і тэмпераментна. Сустракаецца па ўсёй Беларусі. *А. Л. Варламаў.*

**ДРАПА́Ч,** прылада для рыхлення глебы. Лакальныя назвы драпак, дзербан. Рабілі з драўляных змацаваных брускоў з моцнымі жалезнымі зубамі, выгнутымі ўнізе накшталт лапак. Пашыраны былі Д. трох- і чатырохвугольныя.

**ДРА́ТВА** (польск. dratwa ад ням. Draht дрот), тоўстая суканая льняная нітка для шыцця абутку, рымарскіх і інш. скураных вырабаў. Каб засцерагчы Д. ад гніення, яе навошчваюць або прасмальваюць варам (смалой з воскам). Пры шыцці Д. шаўцы замацоўваюць у абодва канцы шчаціну ці леску, каб лягчэй было працягваць праз адтуліны ў скуры, праколатыя шылам.

**ДРАЎЛЯ́НЕ,** усходнеславянская этнічная супольнасць у 8—10 ст. Стараж. назва дрэўлі паходзіць ад мясцовасці, дзе яны жылі — у дрымучых лясах па правабярэжжы Прыпяці, па цячэнню р. Цецераў, Уж, Убарць, Сцвіга. На У межавалі з палянамі, на З — з *валынянамі* і *бужанамі*, на Пн — з *дрыгавічамі*. Археалагічныя помнікі Д.— курганы з пахавальным абрадам трупаспалення, з канца 10 ст.— трупапалажэння (на тэр. Беларусі сустракаюцца ва Усх. Палессі). Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, ганчарствам, ткацтвам, апрацоўкай жалеза, жылі ў паўзямлянках. Гал. гарады: Уручый (Оўруч), Горадск; у Іскарасцені (Карасцень) жылі князь і старэйшыны з мясцовай знаці. У 9—10 ст. мелі ўласную племянную арганізацыю з сваімі князямі і войскамі. Пасля 945 тэрыторыя Д. далучана да Кіеўскай Русі і стала ўдзельным княствам з цэнтрам у г. Уручый. Апошні раз упамінаецца пад 1136. *Г. В. Штыхаў.*

**ДРАЧ,** дрэваапрацоўчы інструмент для вырабу дахавых матэрыялаў — дранкі і інш. Лакальная назва дранік. Уяўляў сабой масіўны жалезны нож з перпендыкулярна замацаванай на адным канцы яго драўлянай ручкай. У рабочым стане прыводзіўся ў дзеянне націсканнем нагі на тыльную частку нажа. У 1940—50-я г. выйшаў з ужытку.

**ДРАЧО́К,** прылада для абрывання льняных галовак; металічная пласцінка з прарэзаным зуб'ем, якую мацавалі на драўляную ручку даўжынёй 70—80 см. Лакальная назва нажы. Знешне нагадвае матыку, аднак зуб'е ў Д. завострана з абодвух бакоў. Была пашырана пераважна на Пн Беларусі.

**ДРАЧО́НІКІ,** бліны з бульбы; тое, што і *дранікі*.

**ДРУ́ЖКА,** вясельны чын з бліжэйшай світы маладой, незамужняя сястра (родная ці дваюрадная), дачка хросных бацькоў, блізкая сяброўка маладой. Д. (баяркі, бальшанкі, паднявесціны, шаферкі, асістэнткі) суправаджалі маладую на працягу вяселля ў яе хаце да ад'езду да маладога. Колькасць Д. была звычайна няцотнай (3, 5, 7 і болей), сярод якіх вылучалася старшая Д. (галоўная, першая), сярэдняя (другая), малодшая (трэцяя) і г. д. Старшая Д.— асноўная памочніца маладой і ўдзельніца вясельных абрадаў: яна хадзіла разам з маладой на *запросіны*, удзельнічала ў выпяканні *каравая*, віла вянок на *суборную суботу*, заплятала і расплятала касу на *пасадзе*, прышывала кветкі да шапкі або да





Драпачы.

кашулі маладога, «прадавала» маладую і месца каля яе за сталом маладому. Асноўныя атрыбуты старшай Д.— прыгожа аздоблены і большы па памерах, чым у іншых Д., вянок і кветка злева на грудзях. Д. з дружком на працягу ўсяго вяселля насілі за пазухай невялікія булачкі хлеба з крыжамі на скарынцы. Звычаёвае права не дазваляла дзяўчыне больш за 2 разы ў жыцці быць Д. (тое ж права забараняла маладой быць сваццяй на вяселлі сваёй Д.). *Л. А. Малаш.*

**ДРУЖКО́,** вясельны чын з боку маладога ці маладой, адзін з найбольш паважаных і самавітых аднавяскоўцаў або сваякоў, які кіраваў вясельным дзеяннем ад пачатку і да канца ў хаце маладога і ў хаце маладой (называлі таксама баярын, сватка, маршалак, паддружы). Д. павінен быў добра ведаць увесь вясельны абрад, каб належным чынам кіраваць вяселлем, і ўмець весяліць гасцей. Галоўныя атрыбуты Д.— самы прыгожы ручнік або два ручнікі, завязаныя крыж-накрыж цераз плечы, маляўнічы пояс, часам канчук (раменны бізун) і вялікая палка. *Л. А. Малаш.*

**ДРУЖО́К,** вясельны чын з бліжэйшай світы жаніха, яго нежанаты брат або блізкі сваяк ці сябра (называлі таксама дружбант, чашнік, падкняжы, паджанішка, шафер, асістэнт). Колькасць жаніхоўскіх Д., як і нявесціных *дружак*, няцотная. Старшы Д. разам з жаніхом хадзіў запрашаць на вяселле радню, разам з ім ехаў да маладой, садзіў маладога на *пасад*, трымаў вянок над яго галавой у час вянчання і г. д. Яго атрыбуты — прыгажэйшыя, чым у іншых Д., ручнік цераз плячо і кветка на левым баку грудзей. *Л. А. Малаш.*

**ДРУЖЫ́НА,** удзельнікі *вяселля* — запрошаныя госці з боку маладога і маладой, якія ўносілі сваю долю ў вясельны пір (свіную вяндліну ці іншае мяса, булку хлеба, міску круп, гарнец гарэлкі і да т. п.). Таму іх называлі яшчэ ўкладаныя, укладальнікі, баяры, прычэпнікі. Раней Д. называлі групу ўдзельнікаў вяселля, якія разам з маладым прыязджалі па маладую.

**ДРУ́ЦКІ-ПАДБЯРЭ́СКІ** Рамуальд Андрэевіч (1812 ці 1813—1856), беларускі і польскі выдавец, публіцыст, фалькларыст; гл. *Падбярэскі* Р. А.

**ДРЫВО́ТНЯ,** дрывотнік, хлеў або *павець* для дроў.

**ДРЫГАВІ́ЧЫ,** адно з племянных аб'яднанняў усходніх славян. Назва паходзіць, мабыць, ад слова «дрыгва». Паводле археалагічных даследаванняў, займалі тэр. на У да Дняпра, на Пн да Барысава, Лагойска, Заслаўля, а таксама вярхоўі Нёмана, на Пд мяжа




пераходзіла за Прыпяць, на З праходзіла па Выганашчанскім балоце (на Пн ад Пінска; на думку У. З. Завітневіча, В. В. Сядова) або пераходзіла Зах. Буг (на думку А. У. Успенскай, Я. І. Цімафеева, К. Мусяновіч). Папярэднікамі Д. у 6—8 ст. на сярэдняй Прыпяці былі слав. плямёны пражскай культуры. На Пн ад Прыпяці ў той час жылі балцкія плямёны. Найбольш старажытныя археалагічныя помнікі Д.— курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення, пашыраны на Прыпяці, Бярэзіне, правабярэжжы Дняпра, у вярхоўях Случы, Арэсы з канца 10 ст.— могільнікі з трупапалажэннем на гарызонце або ў падкурганнай яме, зрэдку на попельна-вугальнай падсыпцы. Пахавальны інвентар бедны. Трапляюцца гліняныя гаршкі, нажы, спражкі, крэсівы, наканечнікі коп'яў, сякеры, зрэдку драўляныя зрубы з 2-схільным дахам, у жаночых пахаваннях — пацеркі з каляровага шкла,

бронзавыя кольцы, пярсцёнкі і бранзалеты. Д. ўпершыню ўпамінаюцца ў недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў» у сувязі з падзеямі, што папярэднічаюць 9 ст., а таксама візантыйскім гісторыкам Канстанцінам Багранародным у 10 ст. (948), у старажрускіх летапісах (1149). Належалі да найбольш развітых у сацыяльных адносінах плямён, знаходзіліся на заключнай стадыі распаду родаплемяннога ладу, мелі сваё паліт. аб'яднанне — «княжанне». Характэрная племянная адзнака — медныя або сярэбраныя пацеркі, упрыгожаныя напаянымі на іх паверхню сярэбранымі шарыкамі, т. зв. зярнёныя пацеркі. Такія пацеркі разам са шклянымі і каменнымі, а таксама металічныя манетападобныя прывескі, аздобленыя ўзорамі з напаяных або адлітых разам з асновай шарыкаў, насілі як маніста на шыі. Тры зярнёныя пацеркі меншых памераў замацоўваліся на скроневых кольцах. Д. займаліся ворыўным земляробствам, агародніцтвам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, рамёствамі (жалезаапрацоўчае, ювелірнае, касцярэзнае, гарбарнае, ганчарнае, дрэваапрацоўчае), хатнімі промысламі (прадзенне, ткацтва). У 10 ст. іх землі ўвайшлі ў склад Кіеўскай Русі. На тэрыторыі Д. узнікла Тураўскае княства, паўн.-ўсх. частка трапіла ў Полацкае княства. Найбольшыя гарады: у 10 ст. Тураў, у 11 ст. Брэст, Пінск, у 12 ст. Слуцк, Клецк, Рагачоў, Мазыр, Драгічын, паводле археалагічных матэрыялаў — Давыд-Гарадок.

*П. Ф. Лысенка.*

**ДРЭВААПРАЦО́ЎЧЫЯ ІНСТРУМЕ́НТЫ,** тыпалагічна разнастайныя прылады і інструменты, прызначаныя для апрацоўкі дрэва. У залежнасці ад выкарыстання падзяляюцца на некалькі асноўных груп. *Стругі, скоблі, гэблі* ўжываліся для габлёўкі; розныя тыпы *сякер, драч* — для ачэсвання, адсякання і расколвання; стамеска, *долата, цясла, пешня* — для даўбення; доўбня, малаток, *чакуха* — для забівання; свердзел, дрэль, корба — для свідравання; *піла*, пілкі, затор — для пілавання; лінейка, *цыркуль* (размер), шаблоны, вугольнік, *драка* (зачэртач), рэйсмус, ватэрпас, адвес — для вымярэння і вызначэння неабходных прапорцый. Большасць пазначаных Д. і. у сваю чаргу маюць асаблівасць канструкцыйных форм і выкарыстоўваюцца для больш вузкіх вытворчых аперацый (струг з прамым і авальным лязом; гэблік звычайны, *фуганак* і калёўка; піла цяслярская, падоўжаная і лучковая і інш.). У кожным з *дрэваапрацоўчых рамёстваў* (цяслярстве, сталярстве, бондарстве, стальмашным і інш.) ужываўся набор функцыянальна неаднародных інструментаў (стругальных, свідравальных, вымяральных і інш.), якія адпавядаюць розным стадыям вытворчага працэсу — ад падрыхтоўкі і першаснай апрацоўкі драўніны да канчатковага вырабу. Адны з іх — універсальныя, выкарыстоўваюцца ў разнастайных рамёствах (сякера, піла, струг, долата, свердзел, гэблік), другія — спецыялізаваныя, толькі для асобных работ (затор бандарны, гэблік-калёўка, лопацень стальмашны, драч для вырабу дранкі і інш.). Разнастайнасць Д. і. і іх спецыялізацыя адлюстроўваюць шматграннае багацце вытворчых прыёмаў і навыкаў і сведчаць пра высокі ўзровень рамеснай тэхнікі ў беларусаў. У дрэваапрацоўчым рамястве, апрача Д. і., выкарыстоўваюцца блізкія да іх па функцыянальнай ролі вытворчыя прылады і прыстасаванні — *варштат* сталярны, такарны станок, гантарэзка, *гбала* (баба), колесня, лябёдка і інш. Многія Д. і. выкарыстоўваюцца ў гаспадарцы і ў наш час.

*В. С. Цітоў.*

**ДРЭВААПРАЦО́ЎЧЫЯ РАМЁСТВЫ.** Асноўныя з іх: *цяслярства, сталярства, бондарства, стальмашнае рамяство, такарнае рамяство, разьба па дрэве, пляценне*, якія ў сваю чаргу падзяляюцца на больш спецыялізаваныя заняткі. Д. р. найбольш старажытныя, узніклі на пачатку чалавечай гісторыі разам з вырабам прымітыўных прылад працы. У кожную археалагічную эпоху дрэва побач з каменем, косцю, пазней жалезам было найважнейшым матэрыялам для вырабу прадметаў ужытку, зброі, разнастайных прылад. Мэтанакіраваная дрэваапрацоўка (пляценне, адсяканне, расколванне, выдзёўбванне, заточка) вядома з часоў палеаліту. Са з'яўленнем жалезных прылад істотна ўдасканальвалася тэхналогія дрэваапрацоўкі, якая дала пачатак цяслярству, сталярству, вырабу посуду. З эвалюцыяй грамадства і ўдасканаленнем рамеснай тэхнікі паглыблялася вытворчая спецыялізацыя, што абумовіла дыферэнцыяцыю Д. р. на адносна самастойныя вытворчыя заняткі. Так, у цяслярскай справе вылучыліся выраб дахавых матэрыялаў, будаўніцтва мастоў, абарончых аб'ектаў, у сталярнай — выраб прыкладных элементаў жылля (акон, дзвярэй і інш.), мэблі, с.-г. прылад, у стальмашным — вытворчасць рабочых вазоў, карэт, колавае, саннае, дужнае рамяство і інш. У 17 ст. на Беларусі існавала каля 30 рамесных прафесій, звязаных з апрацоўкай дрэва. У гарадах рамеснікі адной ці некалькіх сумежных спецыяльнасцей утваралі свае карпарацыйныя аб'яднанні — брацтвы, або цэхі. Найбольш пашыраны Д. р. былі ў сельскай мясцовасці. Частка сельскіх рамеснікаў несла службы пры замках, гасцінцах, фальварках і жыла асобнымі дварамі ці пасёлкамі. Вядомы службы цяслярская, дойлідская, калёсніцкая, бандарная і інш. Другая частка сельскіх майстроў вызвалялася ад пастаяннай службы і плаціла чынш. Д. р. ў сельскай мясцовасці былі дапаможным заняткам. У сярэднявеччы амаль кожная сялянская сям'я сама будавала жыллё, рабіла с.-г. прылады, прадметы ўжытку, посуд, простую мэблю, транспартныя сродкі. Сельскія майстры звычайна не мелі спецыяльнага памяшкання; на двары пад паветкай стаяў варштат, знаходзіліся простыя вытворчыя прыстасаванні і інструменты. Зімой у хаце выраблялі посуд, пляллі лапці, кошыкі і інш. Частка вырабаў прызначалася для аднавяскоўцаў, жыхароў суседніх вёсак ці збывалася на мясцовых кірмашах. З развіццём капіталістычных адносін і ажыўленнем гандлёва-эканам. сувязей Д. р. набывалі форму адыходных промыслаў. Некаторыя майстры-гаспадары мелі вучняў і падсобных рабочых, якіх адпраўлялі ў суседнія вёскі рамантаваць калёсы, рабіць бочкі, цэбры, дзежкі, тачыць верацёны і інш. Многія цесляры і сталяры хадзілі на заробкі ў аддаленыя мясцовасці. Назіралася і геагр. спецыялізацыя Д. р. Так, у Віцебскай губ. ў пач. 20 ст. цесляроў сярод сельскага насельніцтва было значна больш, чым спецыялістаў інш. прафесій. Колькасна яны займалі першае месца і ў Магілёўскай губ. (3500 чал.). Разам з тым тут былі развіты сталярны промысел і вытворчасць дахавых матэрыялаў (асабліва гонтаў). Высокім узроўнем нар. дойлідства вызначаліся Случчына і Нясвіжчына. Апрацоўка ліпавай кары і вытворчасць плеценых вырабаў былі пашыраны на Міншчыне, у некаторых раёнах Магілёўскай губ. Вырабам рагож славіўся Рагачоўскі пав. Пляценне з лубу, лазы вядомы на Піншчыне, Мазыршчыне і ў Налібоцкім краі. У басейнах Дняпра, Бярэзіны, Прыпяці, Зах. Дзвіны і Нёмана значная частка насельніцтва займалася нарыхтоўкай і тралёўкай лесу, пярвічнай апрацоўкай драўніны, вырабам брусоў, дошак, бандарнай клёпкі, гонтаў, сухой перагонкай драўніны і лесасплавам. У сав. час пашыралася арцельная арганізацыя нар. рамёстваў. Сталярна-мэблевыя арцелі існавалі амаль у кожным



Дуб.

раёне БССР. З удасканаленнем арганізацыі і механізацыяй вытворчых працэсаў арцелі паступова набывалі форму сучаснага прамысловага прадпрыемства. У наш час Д. р. існуюць у форме індывідуальнай працоўнай дзейнасці як нар. умельства і дапаможны промысел у с.-г. вытворчасці. Асваенне лепшых традыцый Д. р. спрыяе развіццю мясцовай прамысловасці і нацыянальнага прыкладнога мастацтва.

*В. С. Цітоў.*

**ДУБ,** выдзеўбаная дубовая *лодка*, вялікі *човен*. Лакальная назва дубок. Памеры залежалі ад дыяметра ствала дрэва і прызначэння. Выкарыстоўваўся для перавозкі грузаў і людзей, рэгулявання сплаву лесу (плытоў), у якасці платформы для парома. Рабілі Д. пераважна ў басейне Дняпра і Прыпяці, дзе яны хадзілі да канца 19 ст. Прыпяцкія Д. ў час разліваў замянялі паромы, маглі перавозіць два пароконныя вазы. У выніку драпежнага вынішчэння дубовых гаёў у 2-й пал. 19 ст. рабілі дашчаныя «Д.» з сасны, асіны.

*Н. І. Буракоўская.*

**ДУБА́С,** драўлянае кругладоннае хадавое судна, якое будавалі да пач. 20 ст. на Зах. Бугу і Мухаўцы. Даўжыня 28—32 м, шырыня 7—8 м, грузападымальнасць ад 48—60 да 128—160 т. Служылі каля 5 навігацый.

**ДУБІ́ЦЕЛЬ,** рэчыва для *дублення* скур і аўчын. Д. бываюць раслінныя і мінеральныя (квасцы). Раслінныя вядомы са стараж. часоў. У якасці іх звычайна выкарыстоўвалі кару дуба, елкі, сасны, лазы, вярбы і інш. дрэў. Высушаную кару здрабнялі, секлі сякерай, секачом, таўклі таўкачом у ступе. У мястэчках і гарадах бытаваў і механізаваны спосаб драблення Д.— у ступах пры вадзяных млынах, ветраках, з дапамогай коннай цягі. У 1-й пал. 20 ст. раслінныя Д. амаль выйшлі з ужытку. Мінеральныя Д. вядомы з пач. 19 ст., шырока выкарыстоўваюцца з пач. 20 ст.

*Н. І. Буракоўская.*

**ДУБЛЕ́ННЕ,** апрацоўка аўчын, скур для абутку спецыяльнымі растворамі — *дубіцелямі*. Лакальная назва дубка. Мэта Д.— змяніць фізічныя і хімічныя ўласцівасці скуры, надаць ёй неабходную мяккасць, эластычнасць, вільгаценепранікальнасць (аўчыны, юхт) або, наадварот,— цвёрдасць, супраціўляльнасць да сцірання (падэшвенных скуры). У апошнім выпадку працягласць Д. значна павялічваецца. Віды Д.: арганічнае (расліннае) і неарганічнае (мінеральнае). Расліннае вядома з глыбокай старажытнасці, пра што сведчаць археалагічныя знаходкі. Расліннае Д. адбывалася разам з фарбаваннем. У скуранай вытворчасці выкарыстоўвалі яго да 20 ст. Д. праводзілася ў дубільных чанах (бочках), куды налівалі дубіцель (дуб, дубло) — водны раствор драўнінай кары — і апускалі туды скуры. Другі варыянт — скуры клалі радамі ў чан, перасыпалі здробненай карой і залівалі дубіцелем і цёплай вадой. Зверху скуры прыціскалі гнётам. Працэс Д. залежаў ад тыпу сыравіны. Аўчыны ў





Дубровенская кераміка.

Дубровенскі строй. Жанчына ў летнім адзенні. Вёска Ланенка Дубровенскага раёна.

нар. практыцы дубілі на працягу тыдня, юхт — ад 1 да 3 месяцаў, падэшвенную скуру —3—6 месяцаў і болей. Дубільныя аперацыі выконвалі ўручную. Перыядычна скуры пераварочвалі, дубіцель мянялі. Пасля Д. скуру апалоскалі вадой і прасушвалі. Д. аўчын пашырана з 19 ст. Акрамя Д. ў чане, у пач. 20 ст. бытаваў і паверхневы спосаб: аўчыну старанна націралі па *бахтарме* змочанай у дубільным растворы анучай або мяккай шчоткай. З канца 19 ст. на скураных прадпрыемствах і ў майстэрнях поруч з раслінным пачало пашырацца мінеральнае Д. (з дапамогай хромавакаліевых і алюмакаліевых квасцоў і хромавых солей). Вясковыя рамеснікі карысталіся выключна раслыннымі дубіцелямі. У наш час на дзярж. скураных прадпрыемствах і ў вясковым аўчынным рамястве ўжываецца пераважна мінеральнае Д., у выніку паскараецца працэс апрацоўкі скуры і аўчын. Гл. таксама *Гарбарства.*

*Н. І. Буракоўская.*



Дубровенскі строй. Дзяўчына ў святочным касцюме. Вёска Мікуліна Талачынскага раёна.

**ДУБО́ВІК,** рабочы на вялікай лодцы — *дубе*, што суправаджала плыты. Калі плыт заносіла цячэннем або ён садзіўся на мель, Д. з падначаленымі яму 7—8 веслярамі павінны былі адвесці яго ад небяспечнага месца. Яны адплывалі ў процілеглы ад плыта бок і кідалі ў раку якар з прывязаным да яго доўгім канатам, потым хутка вярталіся назад, замацоўвалі на плыце калаўрот («кацярынку»), прывязвалі да яго другі канец каната і круцілі кола калаўрота. Канат накручваўся на кола, і плыт рухаўся з водмелі.

*Н. І. Буракоўская.*

**ДУБРО́ВЕНСКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў з г. Дуброўна. Промысел узнік у старажытнасці, найбольшага развіцця дасягнуў у 19—1-й пал. 20 ст. Выраблялі

чорназадымлены, непаліваны, гартаваны, паліваны з размалёўкай і без яе гаспадарчы посуд (гаршкі, збанкі, гладышы, міскі, вазоны, цёрлы і інш.), а таксама цацкі. Кераміка адметная простымі лаканічнымі формамі, дакладнымі прапорцыямі, плаўным профілем збанкоў і гладышоў. Цацкі ў выглядзе фігур людзей, конікаў, незвычайных паўптушак-паўжывёл адрозніваюцца надзвычай архаічным выглядам. Іх бялілі, размалёўвалі ў розныя колеры, падкрэсліваючы паўныя дэталі. У пач. 20 ст. дубровенскія ганчары вывозілі свой тавар у Смаленск, Пецярбург. У 1950—70-я г. выраблялі задымленыя, сінявата-чорнага колеру посуд з матавай шурпатай паверхняй, аздоблены хвалістымі палоскамі, прадрапанымі па сырым чарапку, і задымленыя або фарбаваныя ў белы колер цацкі. З канца 1970-х промысел не існуе. Калекцыі Д. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Дзярж. музеі этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе.

**ДУБРО́ВЕНСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага нар. адзення ў Падзвінні. Бытаваў у 19— пач. 20 ст. пераважна ў Віцебскай вобл., часткова на Смаленшчыне. У Д. с. пераважалі блакітныя фарбы (паўплывала *набіванка*) і дробнаклятчастыя ўзоры ў паясных адзежынах.

Старадаўні жаночы касцюм складаўся з кашулі, спадніцы (андарак, саматканка), ільнянога фартуха і курты, больш позні — з кашулі, фартуха, спадніцы з прышыўным ліфам і поясам (саян — накшталт сукенкі без рукавоў). Святочную кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі (лалікі), гесткай, будзённую і споднюю — тунікападобнай. Разрэз размяшчаўся на цэнтры грудзей, стаячы каўнер (1,5—3 см) зашпіляўся шнонкай ці гузікам або сцягваўся чырвонай стужкай. Аздабленне вызначалася паліхромнасцю: узоры-стае ткацтва, вышыўка спалучаліся з разнаколернай аплікацыяй, абля-моўкамі, устаўкамі чырвонай або сіняй кращаніны ці кумачу. Чырвоны арнамент (строгія геаметрычныя формы, шматпялёсткавыя зоркі, раслінныя ўзоры) дапаўняўся блакітным, чорным, жоўтым, зрэдку паскамі медна-чырвоных бліскавак. Спадніцу кроілі ў 4—6 полак з пярэстатканага сіне-белага, чырвона-бурачковага палатна. Спадніцу з ліфам шылі з 2, часам розных па якасці і колеру тканін, дапаўнялі белым ці набіваным фартухом і поясам, на канцы якога нашывалі бісер, а разнаколерныя ніткі чаргавалі з саламянымі прожылкамі (крыглікамі). Суконную світу ў выглядзе безрукаўкі пацягвалі белым каленкорам, аздаблялі нашыўкамі чырвонага сукна, лапікамі чорна-белай аўчыны ўздоўж зрэзаў. Галаўныя ўборы жанчын — хусткі, чапцы. У мужчынскі гарнітур уваходзілі кашуля, нагавіцы, пояс. Жаночай і мужчынскай вопраткай былі армяк, світа, бурка, насоў, кажух. *М. Ф. Раманюк.*

**ДУБРО́ВЕНСКІЯ РУЧНІКІ,** традыцыйныя тканыя ручнікі, якія выраблялі у вёсках Дубровенскага і Аршанскага р-наў (захаваліся з канца 19 ст.). Ткуць з адбеленага кужалю (аснова, уток) і белай баваўны (уток) у тэхніцы бранага і шматнітовага ткацтва (даўжыня 150—360 см, шырыня 30—45 см). Арнаментальная кампазіцыя Д. р. утвараецца чаргаваннем вузкіх (0,5—1,5 см) гладкіх або ўзорыстых пасак і шырокіх узорыстых палос — ромбы, разеткі, крыжыкі (бранае двухуточнае, вышыўка наборам), клеткі і прамавугольнікі (4- і 8-нітовае). Угору палосы звужаюцца і паступова пераходзяць у асноўны фон палатнянага або ўзорыстага перапляцення. У арнаменце пераважае чырвоны колер, у невялікай колькасці ўводзіцца чорны для акцэнтацыі асобных дэталяў узору. У ручніках, выканаых 8-нітовым ткацтвам, каларыстыка ўзбагачаецца ружовым колерам, утвораным своеасаблівым саржавым перапляценнем нітак асновы і ўтку. Аздабляюць ручнікі мохрыкамі, карункамі (характэрна таксама спалучэнне вузкіх нескладаных па малюнку белых ці чырвоных карункаў з доўгімі мохрыкамі таго ж колеру). Кампазіцыйна-арнаментальная структура Д. р. выкарыстоўваецца пры распрацоўцы сучасных узораў тканых ручнікоў на Віцебскім і Полацкім прамысловых аб'яднаннях мастацкіх вырабаў.
*В. І. Селівончык.*

**ДУГА́,** састаўная частка хамутова-аглабельнай *вупражы*. Вылучаюць выязныя і звычайныя Д. Выязныя больш масіўныя, высокія, з крутым выгінам, у версе Д. замацоўвалася металічнае кальца. Канцы іх звычайна фарбавалі ў светлы колер, сярэдзіну — у чорны, карычневы, зялёны або размалёўвалі рознымі ўзорамі. Выязная Д. выконвала важную ролю ў традыцыйнай абраднасці (вяселлі, кірмашовых святах, гасцінах і інш.). У час святочных цырымоній пад ёй чаплялі бомы, упрыгожвалі стужкамі і кветкамі. Вытворчасць Д. часам вылучалася ў самастойны промысел. Папярэдне распаранае дрэва (ракіта, вяз, дуб, ясень, вішня, чаромха) гнулі на *гбале*, ці бабе. Вытворчасць Д. захавалася да нашага часу. *В. С. Цітоў.*



Дуга. Вёска Альшаны Столінскага р-на.

**ДУДА́,** народны духавы язычковы музычны інстумент. Уяўляе сабой скураны мех з маленькай трубачкай-«соскай» («дудачка», «сапль», «посмак») для напаўнення яго паветрам і некалькімі ігравымі трубкамі («перабор» з 7 адтулінамі для выканання мелодыі і 1—2 бурдонныя трубкі — «гукі»), якія маюць *пішчык* з адзінарным язычком з трысцінкі ці гусінага (індычага) пяра. Пры ігры дудар надувае мех, націскае на яго локцем левай рукі, паветра паступае ў трубкі і прымушае вібрываць язычкі. Гучанне моцнае і рэзкае. На Беларусі Д. вядома з 16 ст., была найбольш пашырана на тэр. Віцебскай, Віленскай, паўн.-зах. і ўсх. паветаў Мінскай губерняў. Д.-«вясялуха» была вельмі папулярным музычным ін-

струментам, выкарыстоўвалася для суправаджэння танцаў, песень, прыпевак на сямейных і каляндарных святах, ігрышчах, кірмашах. Гучала таксама ў ансамблі са скрыпкай ці са скрыпкай і цымбаламі. Апошняе публічнае выкананне на Д. зафіксавана ў Полацку ў 1951. *І. Дз. Назіна.*

**«ДУ́ДАЧКА»,** традыцыйны танец. Лакальная назва «Дударыкі». Назву атрымаў, відаць, ад распаўсюджанага ў мінулым музычнага інструмента — дудачкі, пад якую выконваліся танцы. У адным з варыянтаў яго танцавалі па крузе, мужчыны ішлі ўпрысядкі, у другім — два рады выканаўцаў станавіліся насупраць і па чарзе наступалі адзін на аднаго і адступалі, невысока ўзнімаючы выцягнутыя ўперад ногі. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на Брэстчыне і Гомельшчыне. *Ю. М. Чурко.*

**ДУ́ДКА,** старажытны народны музычны інструмент тыпу падоўжанай флейты. Лакальныя назвы пасвісцёл, свірасцелка, сапёлка, жалейка, шасцяруха, гуслі, пішчалка. Мае выгляд трубкі даўжынёй 20—50 см з адной свістковай і 5—8 (найчасцей 6) бакавымі ігравымі адтулінамі (галаснікі, дзірачкі, перабіванкі, клапаны); у верхні канец трубкі ўстаўлена свістковае прыстасаванне (дзенца, шпунт, корачак, сэрца, калодачка, пыж). Сустракаюцца Д. даўжынёй да 100 см без бакавых адтулін. Матэрыялам служаць ствалы дрэў розных парод (хвоя, клён, крушына, арэшнік і інш.), кара вярбы і лазы, у апошні час — алюміній. Д. мае мяккі, пяшчотны гук, разнастайнай афарбоўкі і сілы ў розных рэгістрах, значныя кантыленныя і тэхнічныя магчымасці. Д. сустракаецца па ўсёй Беларусі.

Найбольш раннія звесткі пра Д. на тэр. Беларусі адносяцца да 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. (фрагмент інструмента з косці дробнай птушкі знойдзены пры раскопках паселішча Асавец-2 Бешанковіцкага р-на). Фрагмент Д. 13 ст. выяўлены пры раскопках у Ваўкавыску. У пісьмовых крыніцах 11—17 ст. Д. часта ўпамінаецца як інструмент вайсковай музыкі. У этнагр. працах 19—1-й пал. 20 ст. адзначана выкарыстанне Д. ў час некаторых каляндарна-земляробчых (пераважна веснавых) абрадаў, на гулянках і бяседах. Народ склаў пра Д. песні, загадкі. У наш час на Д. іграюць пастухі, нар. музыканты для задавальнення ўласных эстэтычных патрэб; выкарыстоўваецца і для суправаджэння спеваў. На Д. выконваюць імправізацыйныя найгрышы, танцавальныя і песенныя мелодыі, захоўваючы ўласцівыя нар. вакальнай музыцы суадносіны паміж традыцыйнымі меладычнымі стылямі песень прымеркаваных і непрымеркаваных, спяваннем сумесным і адзіночным, «для людзей» і «для сябе». Д. вядома па ўсёй Беларусі. *І. Дз. Назіна.*

**ДУЛЕ́БЫ,** усходнеславянскае аб'яднанне плямён, якія ў 6—7 ст. жылі на тэр. Валыні і правабярэжнай часткі Сярэдняга Падняпроўя. У 1-й пал. 7 ст. вялі барацьбу з аварамі, у 907 удзельнічалі ў паходзе кн. Алега на Царград. Пасля распаду аб'яднання Д. пад назвай *бужан* і *валынян* увайшлі ў склад Кіеўскай Русі. Археалагічныя помнікі Д.— паселішчы і могільнікі з керамікай тыпу Лукі Райкавецкай. На думку А. А. Шахматава, частка Д. у канцы 8— пач. 9 ст. перасялілася на Пд Беларусі. Гэтым ён тлумачыў пашырэнне на Беларусі шматлікіх тапонімаў, якія паходзяць ад слова «дулебы».





Дуда.

Дудкі.

В. В. Сядоў лічыць в. Хатомель (Столінскі р-н) паселішчам Д. *Г. В. Штыхаў.*

**ДУХО́ЎНАЯ КУЛЬТУ́РА,** сукупнасць духоўных каштоўнасцей, створаных і ствараемых людзьмі ў працэсе грамадска-гістарычнай дзейнасці. Уключае веды, працоўныя навыкі, традыцыі і звычаі, розныя віды мастацтва, нар. творчасці, уяўленняў і вераванняў, што перадаюцца ад пакалення да пакалення і забяспечваюць цэласнасць і стабільнасць этнасу. З падзелам працы на фізічную і разумовую Д. к. пачала існаваць у двух відах — прафесійная (ахоплівае як самастойныя віды дзейнасці навуку, літаратуру, мастацтва, адукацыю, мараль, права, рэлігію) і народная, якія знаходзяцца ў пастаянным узаемадзеянні і ўзаемапранікненні.

У Д. к. найбольш выразна выяўляюцца этнічныя асаблівасці культуры народа, яна існуе ў арганічным адзінстве з *матэрыяльнай культурай.* Сувязь нар. Д. к. з эканам. умовамі жыцця выразна праяўляецца ў нар. ведах, маралі, звычаях, абрадах, фальклоры. У Д. к. важнае месца належыць традыцыйным нар. ведам. На аснове практычнай дзейнасці фарміраваліся і перадаваліся працоўныя веды і навыкі, якія складалі асноўную частку нар. ведаў у гаспадарчай дзейнасці — земляробстве, жывёлагадоўлі, промыслах, рамёствах і інш. занятках. Назіраючы за прыродай на працягу вякоў, бел. селянін навучыўся па асобных прыкметах прадказваць стан надвор'я, склаў сістэму метэаралагічных назіранняў (гл. *Народная метэаралогія*), якія перш за ўсё давалі прагнозы на будучы ўраджай («Сухі марац, мокры май, будзе жыта, як гай», «У сакавіку туман — у жніво дождж пан»). Бел. сяляне здаўна карысталіся дакладным і падрабязным *народным календаром*, які быў прыстасаваны да с.-г. года, вызначаў тэрміны і парадак асноўных работ. Лік часу звычайна вёўся па святах царкоўнага календара, але хрысціянскія святыя ў нар. календары ператвараліся ў працавітых сялян («А Мікола, стары сявец, ячмень сеець, засяваець. Сьвяты Ян, божы каваль, косы круціць, сярпы зубіць»). У паэтычнай форме нар. каляндар прыводзіцца ў калядных і валачобных песнях. У выніку практычнай дзейнасці ўзнікла нар. метралогія. У беларусаў існавалі даўнія лікавыя адзінкі (капа, сорак, тузін і інш.), меры даўжыні (вярста, сажань, локаць, цаля і інш.), плошчы (валока, морг, шнур, прут і інш.), сыпкіх рэчываў і вадкасці (гарнец, кварта, чвэрць, бочка віленская і інш.), масы (камень, фунт, пуд, бязмен і інш.). Важным кампанентам Д. к. з'яўляецца *народная медыцына.* Беларусы на працягу вякоў стварылі цэлы комплекс рэцэптаў і прыёмаў лячэння, якія ашчадна захоўваліся і перадаваліся наступным пакаленням. Нар. медыцына ахоплівае ўяўленні пра анатомію і фізіялогію чалавека, дыягностыку, пошукі, прыгатаванне і ўжыванне лекаў расліннага, жывёльнага і мінеральнага паходжання, розныя хірургічныя прыёмы, дапамогу пры родах, догляд за дзецьмі, прымяненне сродкаў фізічнага ўздзеяння (цяпло, холад, вада, масаж), дыету, псіхатэрапію (гіпноз, замовы), касметыку. Побач з нар. ведамі існавалі прыкмі і *забабоны* — уяўленні, звязаныя з верай у звышнатуральныя сілы, якія быццам бы кіруюць прыродай і лёсам чалавека. Адсюль распаўсюджанне ў нар. побыце *знахарства, варажбы,* веры ў чараўнікоў, ведзьмаў, розных духаў. Эканам. і духоўнае жыццё фарміравала нар. уяўленні пра нормы паводзін (*народны этыкет*), пра дабро і зло, справядлівасць (*народная мараль*), выпрацоўвала спосабы і прыёмы выхавання дзяцей (нар.

педагогіка), выхоўвала пачуцці прыгожага, узвышанага, трагічнага і камічнага, мастацкі густ (нар. эстэтыка).

Бел. працоўны народ стварыў здаровую філасофію жыцця. Ён глыбока шанаваў прыстойныя паводзіны і ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Асабліва высока цаніліся такія якасці чалавека, як працавітасць, кемлівасць, руплівасць, дабрата, смеласць, праўдзівасць, сціпласць. Найбольш агіднымі лічыліся гультайства, пяўмельства, дармаедства. На аснове нар. этыкі вырасла і сфарміравалася нар. педагогіка (гл. *Этнаграфія дзяцінства*). Селянін лічыў сваім жыццёвым абавязкам выхаваць у дзяцей лепшыя чалавечыя якасці. Асноўнай мэтай і галоўным сродкам нар. педагогікі была праца. У традыцыйным побыце беларусаў школу працоўнага выхавання чалавек праходзіў у сям'і, грамадзе. З дзяцінства хлопец прывучаўся араць, баранаваць, касіць, вучыўся традыцыйным для сваёй мясцовасці рамёствам; дзяўчына авалодвала майстэрствам вырошчваць агароднііну, даглядаць жывёлу, жаць, прасці, ткаць, шыць, гатаваць ежу. Сям'я вучыла дзяцей сумленным адносінам да працы, павазе да старэйшых, прызнанню грамадскай думкі. Праца фарміравала і эстэтычныя погляды, з чым былі звязаны ўяўленні аб прыгажосці. Адносіны да працы былі крытэрыем эстэтычнай ацэнкі чалавека («Не той харош, хто тварам прыгож, а той харош, хто на справу гож»).

У нар. побыце беларусаў доўга захоўваліся няпісаныя нормы і правілы паводзін людзей у грамадстве і сям'і (гл. *Звычаёвае права*). Да 16 ст. звычаёвае права шырока выкарыстоўвалася *копнымі судамі*. Але і пазней, калі яно было заменена пісаным, кадыфікаваным, яго нормы і правілы працягвалі рэгуляваць адносіны паміж людзьмі ў сялянскім асяроддзі. Пэўны ўплыў на культуру беларусаў зрабіла рэлігія. Паводле веравызнання большасць беларусаў праваслаўныя хрысціяне, частка — каталікі. Беларусы ніколі не вызначаліся глыбокай рэлігійнасцю, фанатызмам, але ў побыце па традыцыі прытрымліваліся царкоўных прадпісанняў (малітвы, пасты і інш.). Рэлігійны адбітак набылі некаторыя святы і абрады, якія царква прыстасоўвала да сваіх патрэб.

Важнай сферай праяўлення традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў быў грамадскі і сямейны побыт сялян. Ён меў калектывісцкую аснову і доўга захоўваў абшчынныя звычаі *(талака, сябрына, бонда)*. Формы грамадскага жыцця вёскі мелі дыферэнцыраваны характар у залежнасці ад полу, узросту, маёмаснага стану яе жыхароў. Арганізацыя гаспадарчага і грамадскага побыту знаходзілася ў руках грамады, у склад якой уваходзілі гаспадары ўсіх сялянскіх двароў. На сходах грамады выбіралі старасту, соцкага, дзесяцкіх. З развіццём капіталістычных адносін фактычную ўладу над сялянскай грамадой захапілі кулакі. Жанчыны і моладзь не допускаліся да ўдзелу ў сходах. Дзяўчаты і жанчыны збіраліся на попрадкі, моладзь шлюбнага ўзросту наладжвала *ігрышчы*, вячоркі. У сав. час на змену старым формам грамадскага жыцця прыйшлі новыя. Павялічыўся ўдзел працоўных людзей у кіраванні жыццём краіны, ён ажыццяўляецца праз Саветы народных дэпутатаў, грамадскія арганізацыі.

Выключна вялікае значэнне ў развіцці традыцыйнай Д. к. беларусаў мелі нар. *абрады*. Імі суправаджаліся асноўныя падзеі грамадскага і сямейнага жыцця. Асабліва паэтычнымі і маляўнічымі былі сямейныя і каляндарныя абрады. З выпадку нараджэння дзіцяці адзначаліся *радзіны*. Асноўнымі дзеючымі асобамі на радзінах, апрача бацькоў, былі бабка-павітуха, кум і кума, цэнтр. абрадавым момантам — раздача *бабінай кашы*. Царква прыстасавала да радзін абрад хрышчэння, таму радзіны называлі яшчэ хрэсьбінамі, ксцінамі. Адметнай рысай бел. радзінных абрадаў было выкананне ў час іх спецыяльных радзінных песень. Заключэнне шлюбу суправаджалася вясельнымі абрадамі (гл. *Вяселле*). Яны звычайна падзяляюцца на перадвясельныя, уласна вясельныя і пасляв'ясельныя. Уласна вяселлю папярэднічалі *сватанне, аглядзіны, заручыны, суборная субота*. Важнейшымі момантамі вяселля лічыліся *пасад* маладой (а часам і маладога), расплятанне і выкуп яе касы, пераезд маладой да маладога. Да вяселля абавязкова выпякалі спецыяльны абрадавы хлеб — *каравай*. Падрыхтоўка, выпечка каравая, раздача яго на вяселлі ўяўлялі сабой яркую, напоўненую сапраўднай паэзіяй цырымонію. Заключным этапам вясельных абрадаў былі *пярэзвы*. Асноўныя моманты вяселля суправаджаліся выкананнем спецыяльна дастасаваных да іх песень. Адметнай рысай бел. пахавальных абрадаў (гл. *Пахаванне*) былі хаўтурныя, ці пахавальныя, галашэнні — песенна-рэчытатыўныя імправізацыі, у якіх аплакваўся памерлы блізкі чалавек. Пасля пахавання ў доме нябожчыка наладжваліся памінкі з абавязковымі рытуальнымі стравамі — канунам, куццёй, клёцкамі. У наш час з'явіліся новыя сямейныя традыцыі і абрады — урачыстая рэгістрацыя нованароджанага, урачыстае заключэнне шлюбу, камсамольскае вяселле.

Глыбокім духоўным сэнсам былі напоўнены каляндарныя абрады, звязаныя з важнейшымі этапамі с.-г. работ. Пачынаўся год *калядамі*. Для іх характэрны абрадавыя вячэры *(куцця)* напярэдадні свята, новага года *(шчадрэц), вадохрышча*. Каляды суправаджаліся варажбою, гульнямі, песнямі, з імі звязаны звычай *калядавання*. Маляўнічымі і паэтычнымі былі веснавыя абрады. Як толькі з'яўляліся першыя праталінкі, дзяўчаты збіраліся гукаць, клікаць вясну (гл. *Гуканне вясны*), спявалі веснавыя песні. Асобнае месца сярод веснавых абрадаў належала *вялікадню* — стараж. земляробчаму святу. У ім захаваліся многія архаічныя элементы: сустрэча ўзыходу сонца, валачобны абрад, велікодныя арэлі, *карагоды*. Сярод веснавых бел. песень асабліва вылучаюцца валачобныя, якія складаюць спецыфіку і нацыянальную адметнасць традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў. Як свята адзначаўся першы выган жывёлы ў поле (*Юр'я*, Юрай). Да веснавых абрадаў адносіцца *сёмуха*, ці тройца, у дзень якой вялікае значэнне надавалася маладой зеляніне як сімвалу адраджэння. З абраднасцю сёмухі быў звязаны вядомы на Палессі звычай вадзіць *куст*. Пасля сёмухі пачынаўся *русальны тыдзень*, якім па сутнасці і канчалася вясна. З гэтага часу веснавыя песні ўжо не спявалі. Самым яркім і прыгожым летнім святам было *купалле*. Яно напоўнена паэтычнымі момантамі — раскладаннем вогнішчаў, скокамі праз агонь, завіваннем вянкоў, пошукамі чарадзейнай папараці-кветкі, купальскімі карагодамі. Шырока адзначаліся па ўсёй Беларусі такія летнія абрады, як *зажынкі* і *дажынкі*, якімі пачынаўся і завяршаўся адзін з найважнейшых с.-г. працэсаў — жніво. Самым значным асеннім абрадам быў памінальны абрад — *дзяды*. Увосень адзначаліся *пакровы* і *багач*. Восень у сялянскім жыцці была звязана з вельмі прыгожымі, меладычнымі песнямі, якія складаюць спецыфіку бел. паэтычнага і музычнага фальклору. Многія каляндарныя абрады ў наш час не адзначаюцца, некаторыя (каляды, вялікдзень, сёмуха, купалле) захоўваюцца на вёсках як яркія бытавыя святы. У гарадах і вёсках Беларусі цяпер святкуюць гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, 1 Мая, Дзень Перамогі, Міжнародны жаночы дзень, Новы год. У побыт увайшлі новыя сав. абрады і святы — Праводзіны зімы, *Свята першай баразны, Свята песні*, Свята першага снапа, *Свята ўраджаю, Свята рыбака, Свята вёскі, Свята горада, Свята вуліцы*, пасвячэнне ў прафесію, уручэнне пашпарта, провады ў армію і інш.

Важным сродкам фізічнага, разумовага, маральнага і эстэтычнага выхавання, формай правядзення вольнага часу з'яўляліся *народныя гульні*. Адны з іх былі цесна звязаны з абрадамі, карагодамі, нар. тэатрам («Жаніцьба Цярэшкі», «Яшчур», «Дзяцел», «Зязюля» і інш.), другія мелі спартыўны характар («Азярод», «Калаўрот», «Апука», «Бабкі» і інш.).

Д. к. беларусаў ярка праявілася ў фальклорных формах мастацтва. Бел. фальклор мае многа агульнага ў жанравым складзе, сюжэтах, паэтыцы з фальклорам інш. слав. народаў. І ў той жа час ён вельмі самабытны. Для яго характэрна багацце паданняў і казак пра *волатаў*, асілкаў, казак пра жывёл. Многія бел. казкі, асабліва бытавыя, прасякнуты добрым жыццесцвярджальным гумарам. Сацыяльнай вастрынёй і сатырычным характарам вызначаліся сацыяльна-бытавыя казкі, перш за ўсё

антыпрыгонніцкія і антырэлігійныя. Высокага мастацкага развіцця дасягнулі і інш. празаічныя жанры фальклору (легенды і паданні, сказы, прыказкі і прымаўкі, загадкі, анекдоты). Багаццем жанраў, сюжэтаў, варыянтаў, высокім мастацкім майстэрствам вылучалася ў беларусаў каляндарна-абрадавая, сямейна-абрадавая, пазаабрадавая паэзія (любоўныя, сямейна-бытавыя, жартоўныя, рэкруцкія, бурлацкія, чумацкія песні, прыпеўкі, дзіцячы фальклор).

На аснове нар. абрадаў, гульняў, ігрышчаў вырас бел. *народны тэатр*. Вялікай любоўю карысталіся *скамарохі* — вандроўныя акцёры, якія выступалі на плошчах гарадоў, мястэчак, вёсак, у панскіх палацах і сялянскіх хатах. У 16—18 ст. існаваў школьны тэатр. У ім асаблівую цікавасць мелі інтэрмедыі, цесна звязаныя з нар. гульнямі, мастацтвам скамарохаў. З 16 ст. адным з развітых відаў нар. творчасці быў лялечны тэатр — *батлейка*. З 17 ст. папулярнай становіцца *народная драма* — найбольш дасканалая форма нар. тэатра. Значнага ўзроўню дасягнула *народная музыка*, песнятворчасць. Былі распаўсюджаны адзіночныя і харавыя спевы, стараж. аднагалоссе і больш позняе шматгалоссе з падгалоскамі, нар. інструментальныя ансамблі. У наш час вядома больш за 100 бел. *народных танцаў*, сярод іх стараж. карагоды, разнастайныя полькі, кадрылі і інш. Існавала мноства нар. музычных інструментаў: скрыпка, басэтля, цымбалы, дуда (валынка), дудка, жалейка, ліра, бубен, барабан, гармонік і інш. Этнічнай своеасаблівасцю вызначалася *народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва*: разьба па дрэве, кераміка, пляценне з лазы і саломы, ткацтва, вышыўка. Сусветную славу набылі слуцкія паясы.

Нар. мастацтва ў яго традыцыйных формах жыве і развіваецца і ў наш час. Многія яго віды і жанры атрымалі новае жыццё. У рэспубліцы працуюць тысячы нар. умельцаў. Заслужаным поспехам карыстаецца івянецкая і пружанская кераміка, посцілкі дзятлаўскіх і шчучынскіх, ручнікі неглюбскіх і мотальскіх ткачых, агоўскія маляваныя куфры, вырабы з чароту і саломы верхнядзвінскіх і чачэрскіх майстрых. У апошнія дзесяцігоддзі актыўна пачалі адраджацца фальклорныя формы музычнага, песеннага, танцавальнага самадзейнага мастацтва. Шырока вядомыя ў рэспубліцы такія фальклорныя калектывы, як «Крупіцкія музыкі» Мінскага р-на, гомельскі фальклорны тэатр музычнай камедыі «Жалейка». Нар. мастацтва стала важнай крыніцай бел. самадзейнага і прафесійнага мастацтва. Прафесійнае мастацтва і літаратура бел. народа выраслі на глебе культуры Кіеўскай Русі. Беларусы ўзбагацілі слав. і сусветную скарбніцу культуры. Яны па праву ганарацца спадчынай бел. першадрукара, асветніка, вучонага-энцыклапедыста Ф. Скарыны, творчасцю аднаго з буйнейшых слав. паэтаў эпохі Адраджэння М. Гусоўскага і інш. Сярод лепшых узораў дойлідства Сафійская і Спаса-Ефрасіннеўская цэрквы ў Полацку, Каложская царква ў Гродне, замак у Міры, Барысаглебская царква ў Навагрудку, фарны касцёл і замак у Нясвіжы. Станаўленне відаў і жанраў прафесійнага мастацтва, выпрацоўка вобразна-выяўленчых сродкаў ішлі і на нацыянальнай глебе, і ў кантакце з мастацтвам і літаратурай рускага, укр., польскага, літоўскага і інш. народаў. З 19 ст. пачынаецца новы этап развіцця прафесійнай культуры Беларусі. Прагрэсіўныя пісьменнікі і мастакі імкнуліся абудзіць нацыянальную самасвядомасць беларусаў, наблізіць мастацтва і літаратуру да праблем нар. жыцця. У пачатку 20 ст. ў сувязі з уздымам рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі пачынае складвацца сапраўды нацыянальнае прафесійнае мастацтва. Заснавальнікамі новай бел. літаратуры сталі Я. Купала і Я. Колас. Разам з імі каля вытокаў сучаснай бел. літаратуры сталі М. Багдановіч, Цётка, З. Бядуля. Сёння ўсёй краіне вядомы імёны бел. пісьменнікаў і паэтаў П. Броўкі, П. Глебкі, К. Чорнага, М. Лынькова, А. Куляшова, І. Мележа, У. Караткевіча, М. Танка, І. Шамякіна, П. Панчанкі, В. Быкава, Я. Брыля, А. Адамовіча; п'есы бел. драматургаў К. Крапівы, А. Макаёнка, А. Дударава ідуць на сцэнах многіх тэатраў Савецкага Саюза.

Вял. ролю ў культурным жыцці Беларусі адыгрывае тэатральнае мастацтва, асабліва такія вядомыя тэатры рэспублікі, як Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР, Бел. тэатры імя Я. Купалы і Я. Коласа. Багаццем вызначаецца музычнае мастацтва беларусаў. Яно прадстаўлена сімфоніямі, інструментальнымі канцэртамі, кантатамі, араторыямі, вакальнай музыкай, операй, балетам. Для ўсіх гэтых жанраў характэрна арганічная сувязь з нар. песенна-танцавальнай творчасцю, выкарыстаннем нар. традыцый. Шырокую вядомасць атрымала бел. выяўленчае мастацтва. У рэспубліцы склалася своеасаблівая бел. сав. школа жывапісу, графікі, скульптуры. З'явіліся і актыўна развіваюцца новыя віды мастацтва — кіно, мастацкая фатаграфія, дызайн і інш.

Важная частка духоўнай культуры — адукацыя і навука. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі большасць беларусаў была непісьменнай. Таленавітыя выхадцы з Беларусі звычайна атрымлівалі адукацыю за яе межамі. Карэнныя змены адбыліся ў наш час. З 1935 Беларусь — рэспубліка суцэльнай пісьменнасці. Падрыхтаваны кваліфікаваныя нацыянальныя кадры інтэлігенцыі, рабочыя і сяляне ў асноўным маюць сярэднюю (поўную ці няпоўную) адукацыю. У 1979 на 1000 занятых рабочых з такім узроўнем адукацыі прыпадала 763 чалавекі, на 1000 занятых калгаснікаў — 449. Развіццё адукацыі ў рэспубліцы забяспечваецца праз 2462 сярэднія школы, 139 сярэдніх спецыяльных і 33 вышэйшыя навучальныя установы. Спрыяльна ўплывае на Д. к. беларусаў шырокае развіццё сродкаў масавай інфармацыі. На Беларусі выдаюцца 35 часопісаў, 215 газет і інш. перыядычныя выданні. З 1925 ідуць перадачы бел. радыё, з 1956 — бел. тэлебачання. На канец 1986 на 100 сем'яў прыпадала 80 радыёўстановак і 87 тэлевізараў. Вялікая роля ў далучэнні нар. мас да культуры належыць культурна-асветным установам. У 1986 налічвалася 6035 клубных устаноў і 6707 бібліятэк. Навукова-даследчую работу вядуць АН БССР, ведамасныя навукова-даследчыя ін-ты, вышэйшыя навучальныя установы. Працы бел. вучоных атрымалі прызнанне ў СССР і за мяжой. Д. к. беларусаў — састаўная частка сусветнай культуры.
*Э. Р. Сабаленка.*

**ДЫБО́ЎСКІ** Уладзіслаў Іванавіч (18.4.1838, б. маёнтак Адамарын, Маладзечанскі р-н —27.7.1910), заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог і фалькларыст. Д-р мінералогіі (1878). Скончыў Дэрпцкі (Тартускі) ун-т (1862). За ўдзел у паўстанні 1863—64 прыгавораны да турэмнага зняволення. З 1871 працаваў у Дэрпцкім ун-це. У 1878 пераехаў на Навагрудчыну. Даследаваў



Дыван. Вёска Баброўнікі Валожынскага раёна.

выкапнёвыя рэшткі Усх. Прыбалтыкі, Сібіры, флору і фауну Навагрудчыны і інш. частак Расіі. Збіраў бел. фальклор. У штогодніку «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Збор звестак па айчыннай антрапалогіі») апублікаваў «Беларускія прыказкі з Навагрудскага павета» (1881, т. 5, 768 тэкстаў), «Беларускія загадкі з Мінскай губерні» (1886, т. 10, 112 тэкстаў).
*А. Ф. Літвіновіч.*

**ДЫВА́Н**, 1) тканы (часам вышываны, вязаны) выраб з воўны, шоўку, бавоўны, лёну або штучнага валакна, прызначаны для ўпрыгожання і ўцяплення жылля. Д. прыбівалі да сцяны, як і дэкаратыўнымі *посцілкамі*, засцілалі ложак; імі ўпрыгожвалі інтэр'еры царкоўных храмаў. Д. быў абавязковым атрыбутам вясельнага абраду (у час шлюбу над ногі маладым слалі Д. або

посцілку). Найбольш пашыраная кампазіцыя Д.— геаметрычны ці раслінны арнаментальны ўзор па цэнтры поля, акаймаваны шлякам. Бел. дыванаткацтва мае шматвяковыя нацыянальныя традыцыі ў распрацоўцы ўзорыста-колеравых кампазіцый, тэхнік і прыёмаў ткання (гл. *Ткацтва*). Археалагічныя знаходкі сведчаць, што на Беларусі Д. вядомы з часоў Кіеўскай Русі. Самыя старажытныя — бязворсавыя двухбаковыя Д.-кілімы. Ворсавыя Д. пачалі вырабляць у канцы 14 ст. У 14—17 ст. дыванаткацтва паступова ператварылася ў рамяство: узніклі ткацкія цэхі ў Слоніме (1605), Капылі (1652) і інш., а таксама ткацкія майстэрні пры маёнтках і манастырах, у якіх працавалі прыгонныя сяляне. Д.-кілімы ткалі ў нескладанай тэхніцы палатнянага перапляцення з выкарыстаннем каляровага ўтку, які ўтвараў звычайна геаметрычныя ўзоры. У 16—18 ст. традыцыйны геаметрычны арнамент дапоўніўся раслінным — стылізаваныя кветкі, вазоны і інш. Паступова ўскладнілася тэхніка ткання Д. Пачалі выкарыстоўваць розныя віды *пераборнага ткацтва*, якое дазволіла разнастаіць узор і колеравую гаму тканін (матывы стылізаваных кветак, галінкі з лісцем, гарманічна скампанаваныя вакол цэнтра). Унікальная з'ява ў еўрапейскім ткацтве — падвойныя Д., якія выраблялі на Беласточчыне і Гродзеншчыне, часткова на Віцебшчыне. Складаная тэхніка выканання (гл. *Падвойнае ткацтва*) патрабавала ад ткачых вялікага майстэрства. Падвойныя Д. выкарыстоўвалі звычайна ў вясельным абрадзе, таму на іх вытыкалі матывы вясельнага карагода з фігуркамі дзяўчыны і хлопца, а таксама выявы птушак, зрэдку дрэва жыцця.

У наш час узорныя кампазіцыі Д. сталі больш разнастайнымі за кошт распрацоўкі асобных элементаў і шматколернасці. Кампазіцыі з папярочных палос, дзе спалучаюцца элементы расліннага і геаметрычнага арнаменту, пераважаюць у Д. Гродзенскай вобл. Для Д. Гомельскай вобл. характэрны буйныя геаметрычныя ўзоры, вакол якіх кампануюцца меншыя элементы, і яркая насычаная колеравая гама (некаторыя Д. нагадваюць тканыя вітражы). Д. Мінскай і Магілёўскай абл. як шматколерныя, так і двухколерныя з геаметрычным і раслінным арнаментам. На Віцебшчыне Д. больш стрыманага колеру — пераважна двухколерныя з геаметрычным малюнкам. Вышываныя Д. дэкорам і кампазіцыяй падобныя на тканыя.



**Дыван.** Вёска Паставічы Старадарожскага раёна.

2) Вырабы, маляваныя на тканіне, радзей паперы або цыраце, прызначаныя для ўпрыгожання інтэр'ера жылля. Гл. *Маляваныя дываны*. *Дз. С. Трызна.*

**ДЫВЕРГЕ́НЦЫЯ** этнічная (ад позналац. divergentia разыходжанне), падзел этнічных супольнасцей, у выніку якога складваюцца новыя этнічныя адзінкі. Адзін з *этнічных працэсаў*. Вылучаюць два тыпы Д.: этнічная парцыяцыя, пры якой *этнас*, што дзеліцца, знікае, а прадстаўнікі новых этнічных аб'яднанняў поўнасцю сябе з ранейшым не атаясамліваюць, і этнічная сепарацыя, пры якой ад эпічнай супольнасці аддзяляецца яе частка (звычайна параўнальна невялікая), што служыць асновай фарміравання новага самастойнага этнасу. У залежнасці ад фактараў, што выклікаюць апошні тып Д., адрозніваюць этнаміграцыйную (абумоўлена міграцыямі) і этнапалітычную (вынік расчлянення адзінага этнічнага масіву паміж дзяржавамі) сепарацыі. У найбольшай ступені працэсы Д. былі характэрны для этнасацыяльнай дынамікі народаў да- і раннекласавых грамадстваў. Масавая міграцыя ў гэтыя эпохі прывяла да рассялення чалавека на зямным шары, узнікнення многіх народаў. У класавых грамадствах вялікую ролю ў развіцці Д. адыгрывае дзяржаўна-паліт. фактар, напр. у фарміраванні нямецкамоўных народаў — немцаў, аўстрыйцаў. Пэўнае значэнне Д. мела ў працэсах узнікнення т. зв. перасяленчых нацый буржуазнага тыпу — франкаканадцаў, англааўстралійцаў і інш. У сучасную эпоху працэсы этнічнага падзелу сустракаюцца параўнальна рэдка, як правіла, у выніку падзелу этнасу дзяржаўна-паліт. межамі, напр. немцы ГДР і ФРГ, зах. бенгальцы і бангладэшцы. На тэр. Беларусі працэсы Д. парцыяцыйнага тыпу мелі месца ў 3—2-м тысячагоддзях да н. э., калі яе тэрыторыя ўвайшла ў арэал рассялення індаеўрапейцаў, а таксама ў 7—9 ст.— у перыяд рассялення слав. плямён. Класічным прыкладам этнічнай парцыяцыі феадальнай эпохі лічыцца працэс узнікнення трох родасных народаў — рускага, беларускага і ўкраінскага — у выніку распаду ўсх.-слав. супольнасці ў 12—13 ст. *П. У. Церашковіч.*

**ДЫ́ЛЯ**, палова ці чвэрць расколатага або распілаванага ўздоўж бервяна; матэрыял для рубленых сцен на ПдЗ Палесся. Сустракаюцца хаты (в. Акцябр Кобрынскага р-на), зруб якіх складзены ўсяго з чатырох шырокіх Д.

**ДЫМ**, падатковая адзінка ў 14—пач 19 ст.; асноўная ячэйка сельскагаспадарчай вытворчасці. Атаясамліваўся з гаспадаркай (дваром, ачагом). Пераважалі аднасямейныя Д., часта гаспадарка вялася некалькімі сем'ямі. Д. меў жыллёвую і гаспадарчыя пабудовы, рабочую і прадукцыйную жывёлу, інвентар, с.-г. угоддзі.

**ДЫМАКУ́Р**, дымар, пчалярская прылада для падкурвання пчол дымам у *вуллі*. Лакальныя назвы дымілка, курадым, куранка, падкурачка. Дым адганяе пчол у глыбіню вулея і робіць іх менш куслівымі. Даўней пчол падкурвалі падпаленым кавалкам сухой напаўгнілой драўніны (гнілушка, гніляк, курацё, курэнь) або кураўкай (курашка) — туга скручанай анучкай, абгорнутай бяростай. Трымалі яе непасрэдна ў руцэ або зашчэмлівалі ў *зубель*. Больш зручнымі для падкурвання былі пазнейшыя гліняныя Д. ў выглядзе гаршкоў і збанкоў з дзвюма ці адной ручкай, невялікімі адтулінамі каля дна і высокім тонкім горлам або звужанай на канцы трубачкай. Такія Д. былі найбольш пашыраны ў пераходны перыяд ад *бортніцтва* да пасечнага *пчалярства*. Д. з механічным раздзіманнем агню вядомы з канца 19 ст. Сучасны Д. вырабляюць з ліставога жалеза; складаецца з цыліндрычнага корпуса (вышыня 17—18 см, дыяметр 9—10 см) з канічным

адкідным векам, мехам са скуры ці моцнай тканіны і зваротнай спружыны ў сярэдзіне. З дапамогай меха надтрымліваюць гарэнне паліва (якое адбываецца ў металічным стакане, што знаходзіцца ўнутры корпуса) і накіроўваюць струмень дыму ў патрэбнае месца. Лепшым курацца лічыцца парахня лісцевых дрэў — тапалі, вярбы, ліпы (не дае гарачага дыму і іскраў, якія могуць апячы пчол і падпаліць вулей). *С. Ф. Цярохін.*

**ДЫМКА**, чатырохнітовая тканіна. Гл. ў арт. *Чатырохнітовае ткацтва.*

**ДЫМНІК**, адтуліна для выхаду дыму з *курнай хаты.* Часцей яго рабілі каля печы ў столі, зрэдку — у сцяне, каля дзвярэй. Адтуліна затыкалася або закрывалася засаўкай, якую адчынялі, калі палілі печ. Часам рабіўся драўляны або плецены з лазы і абмазаны глінай дымаход, які выводзіўся праз страху (пераходная канструкцыя да печы з комінам).

**ДЫФУЗІЯНІЗМ** (ад лац. diffusio распаўсюджванне), кірунак буржуазнай этнаграфіі. Узнік у канцы 19 ст. Найбольш пашыраны ў 1-й пал. 20 ст. З сярэдзіны 20 ст. яго ўплыў значна змяншаецца. Д. тлумачыць развіццё культуры этнасаў не самастойнай іх эвалюцыяй, а гал. чынам і нават выключна запазычваннем культурных дасягненняў інш. этнічных супольнасцей. Д. проціпастаўляе культурную дыфузію (пасторавае перамяшчэнне з'яў культуры) эвалюцыі, адрывае з'явы культуры ад іх стваральніка — народа, ігнаруе сацыяльна-эканам. развіццё як умову пэўных культурных дасягненняў этнасу, лічыць культурную дыфузію сутнасцю, галоўным зместам гіст. працэсу, імкнецца ўсю гісторыю чалавецтва звесці толькі да культурных кантактаў і перанясення культур. Марксісцкая этнаграфія разглядае знешні культурны ўплыў, знешнія культурныя кантакты і сувязі як важны, але не вызначальны фактар культурна-гіст. працэсу, які заснаваны пераважна на ўнутраных заканамернасцях развіцця этнасаў. *М. Ф. Піліпенка.*

**ДЫШАЛЬ**, 1) жэрдка, нерухома замацаваная адным канцом да пярэдняй восі калёс пры парнай запрэжцы. Лакальная назва дышла. Служыць для злучэння транспартнага сродку з цяглавай сілай і паварочваецца разам з пярэднім ходам (воссю). 2) Частка сахі для двухваловай або двухконнай запрэжкі. У больш позні час Д. пачалі называць і градзіль плуга, да пярэдняга канца якога прымацоўваецца *ворчык.*

**ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ** (грэч. diálektos гаворка+lógos вучэнне), раздзел мовазнаўства, які вывучае дыялекты (гл. ў арт. *Дыялектная мова*). Вылучылася з фалькларыстыкі і этнаграфіі ў пач. 19 ст. Звесткі пра жывое вуснае маўленне беларусаў пачалі назапашвацца для дыялекталагічных даследаванняў з 1-й пал. 19 ст. ў выніку адлюстравання пры фальклорна-этнагр. запісах гукавых, граматычных і лексічных асаблівасцей мясцовых гаворак. Гэтыя запісы часам суправаджаліся заўвагамі пра мясцовую гаворку, індэксамі яе адметных слоў і інш. Такое адлюстраванне бел. дыялектнай мовы пры рэгістрацыі ўзораў нар. вусна-паэтычнай творчасці і маўлення, пры раскрыцці розных бакоў нар. матэрыяльнай і духоўнай культуры было ў дарэвалюцыйны перыяд асноўным (З. Я. Даленга-Ходакоўскі, І. Шыдлоўскі, М. А. Дзмітрыеў, Я. Чачот, П. М. Шпілеўскі, А. Г.-К. Кіркор, Р. С. Зяньковіч, П. В. Шэйн, П. А. Бяссонаў, М. Я. Нікіфароўскі, Е. Р. Раманаў, М. А. Янчук, М. В. Доўнар-Запольскі, А. Я. Багдановіч, М. Федароўскі і інш.). Паявіліся невялікія агульныя нататкі пра жывую бел. мову і яе найважнейшыя асаблівасці (К. Ф. Калайдовіч, Ф. Галатузаў, П. Шастакоў, М. Анімеле). Спробы лінгвістычнага вывучэння матэрыялаў і абагульнення звестак пра мясцовае маўленне беларусаў адносяцца да 2-й пал. 19 ст.— пач. 20 ст. (І. І. Насовіч, М. А. Коласаў, К. А. Апель, І. А. Нядзёшаў, Раманаў, У. М. Дабравольскі, А. К. Сержпутоўскі, І. А. Сербаў і інш.). Заснавальнікам бел. Д. стаў Я. Ф. Карскі, які прысвяціў дыялектнай мове 2-гі том сваёй фундаментальнай працы «Беларусы» (1903—22), шэраг артыкулаў і спецыяльны нарыс у кнізе «Руская дыялекталогія» (1924). Пытанні бел. Д. асвятляліся таксама ў працах па гісторыі і Д. рускай мовы ў яе тагачасным шырокім разуменні (А. І. Сабалеўскі, А. А. Шахматаў, В. А. Багародзіцкі). Важнае значэнне мелі працы Маскоўскай дыялекталагічнай камісіі (М. М. Дурнаво, М. М. Сакалоў, Дз. М. Ушакоў).

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі даследаванні па Д. разгарнуліся ў некалькіх кірунках. Працягвалася вывучэнне асаблівасцей мясцовых гаворак паасобных раёнаў БССР, у т. л. бел.-укр. і бел.-рускіх нацыянальных моўных сумежжаў (П. А. Бузук, П. А. Растаргуеў), сярэднебел. гаворак (І. В. Воўк-Левановіч, С. М. Некрашэвіч). Выконвалася шырокая праграма Інбелкульта па стварэнню серыі «краёвых» слоўнікаў жывой бел. мовы (М. І. Каспяровіч, М. В. Шатэрнік, І. К. Бяльковіч, Растаргуеў і інш.). Распачаты лінгвагеагр. работы (Бузук). Далейшае развіццё атрымала Д. ў пасляваенны час. Дэталёва абследаваны мясцовыя гаворкі паасобных раёнаў у розных абласцях Беларусі, вывучаны шэраг буйных лексікаграматычных катэгорый і фанетычных з'яў дыялектнай мовы (П. М. Гапановіч, М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч, А. Р. Мурашка, А. І. Чабярук, Н. Т. Вайтовіч і інш.). Створана і выдадзена значная колькасць дыялектных слоўнікаў і зборнікаў дыялектных лексічных матэрыялаў і фразеалогіі. Выдадзены фундаментальны «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (гл. ў арт. *Атлас лінгвістычны*), а таксама буйныя працы, дзе абагульняюцца яго матэрыялы. Рыхтуецца вялікі лексічны атлас бел. гаворак, які ў комплексе з усімі дыялектнымі лексікаграфічнымі працамі адлюструе лексічнае багацце дыялектнай мовы і заканамернасці яго тэрытарыяльнага размяшчэння ў мясцовых гаворках Беларусі. *А. А. Крывіцкі.*




**Дымакуры:** 1 — гліняны (Палессе); 2 — бляшаны без меха; 3 — бляшаны з мехам.

**ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА**, народна-дыялектная мова, этнатэрытарыяльная разнавіднасці (фармацыі) нацыянальнай мовы. Адрозніваюцца ад агульнанар. літаратурнай разнавіднасці нацыянальнай мовы абмежаваным рэгіянальным пашырэннем і ўжываннем у вусных зносінах звычайна сельскіх жыхароў. Выступаюць у выглядзе мясцовых гаворак. У залежнасці ад падабенства або агульнасці ў словах, спалучэннях слоў, а таксама ў гукавым абліччы і граматычнай будове мясцовыя гаворкі спалучаюцца ў групы, якія ў сваю чаргу аб'ядноўваюцца ў дыялекты, дыялектныя зоны і інш. Складаная сістэма падобных этнатэрытарыяльных




Аўтар А.А.Крывіцкі

разнавіднасцей характэрна для бел. нацыянальнай мовы. Мясцовыя гаворкі, якія ўваходзяць у яе склад, групуюцца па сваёй генетычнай, спадчыннай агульнасці, а таксама па агульнасці, набытай рознымі гаворкамі ў выніку аднолькавасці іх этнамоўных сувязей, кантактаў у працэсе складвання і гіст. развіцця.

Паводле спадчыннай агульнасці мясцовыя гаворкі ў межах Беларусі аб'ядноўваюцца ў 2 буйныя дыялекты — паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні. **Паўночна-ўсходні дыялект** складаюць роднасныя па сваёй зыходнай аснове гаворкі мясцовага насельніцтва паўн.-ўсх. часткі рэспублікі. Яны характарызуюцца наступнымі асаблівасцямі: у галіне фанетыкі — дысімілятыўнае аканне (въда́, тръва́, але вады́, травы́, ваду́, траву́, вадо́й, траво́й, вадз'е́, трав'е́) і дысімілятыўнае яканне (з'імл'а́, п'іта́, але з'амл'і́, п'аты́, з'амл'у́, п'ату́, з'амл'о́й, п'ато́й, нъ з'амл'е́, нъ п'ац'е́), галосны «е» пад націскам у адпаведнасці з былым «ѣ» (л'е́с, л'е́та, у вада'е́), галосны «о» пад націскам у закрытым складзе (го́д, ко́т, паро́г, сало́дкі, гадо́ў), спалучэнне мяккіх зычных «ц'ц'», «дз'дз'», «с'с'», «з'з'», «л'л'», «н'н'» і цвёрдых «шш», «жж», «чч» у адпаведнасці з былым спалучэннем падобных зычных з «j» (пла́ц'ц'а, суда'дз'а́, л'іс'с'ій, гра́з'з'у, іл'л'е́ш, гул'а́н'н'а); у галіне граматыкі — канчаткам «-ы (-і)» у назоўным склоне мн. л. ў назоўніках н. р. (во́кны, с'о́лы, пал'і́, ву́л'л'і), а таксама ў назоўніках м. р. (дамы́, нажы́, кава-л'і́), канчаткам «-ам» пад націскам у давальным склоне мн. л. ў назоўніках м. р. (дуба́м, быка́м, куста́м) і «-ах» у месным склоне мн. л. (у дубах, нъ быка́х, у куста́х), канчаткам «-ым (-ім)» пад націскам у месным склоне адз. л. м. і н. р. ў прыметніках і займенніках (у пусты́м, у сух'і́м, у маjі́м, у ты́м), канчаткам з фінальным зычным «ць» у 3-й асобе адз. л. цяперашняга часу абвеснага ладу дзеясловаў 1-га спражэння (іда'е́ц', н'ас'е́ц', гул'а́jіц') і інш. Гэтыя асаблівасці ў сваім пашырэнні ў гаворках ПнУ сумяшчаюцца прыблізна да лініі Мядзель — Барысаў — Быхаў — Чачэрск (тут і далей гл. карту), якая ўмоўна прымаецца за мяжу дыялекту. Паводле мясцовых асаблівасцей гаворкі паўн.-ўсх. дыялекту падзяляюцца на 3 групы: віцебскую, усходне-магілёўскую і полацка-мінскую.

**Паўднёва-заходні дыялект** складаюць гаворкі паўд.-зах. часткі рэспублікі (за выключэннем гаворак яе паўд.-зах. кутка). Яны характарызуюцца наступнымі асаблівасцямі: у галіне фанетыкі — недысімілятыўным (моцным) аканнем (вада́, трава́, вады́, травы́, ваду́, траву́, вадо́jу, траво́jу, у вадз'е́, у трав'е́), пры гэтым пераважна няпоўным, з захаваннем у канцавым становішчы гука «о» не пад націскам (с'е́но, л'е́то, та́то, мно́го, к'е́пско, чо́рнаго) або оканнем наогул (вода́, голова́, го́род, л'е́то), недысімілятыўным яканнем (с'ц'ана́, п'ата́, с'ц'аны́, п'аты́, с'ц'ан'е́, п'ац'е́, с'ц'ану́, п'ату́, с'ц'ано́jу, п'ато́jу) або еканнем (с'ц'ена́, п'ета́,

с'ц'ены́, п'еты́, с'ц'ен'ê п'ец'ê с'ц'ену́, п'ету́, с'ц'ено́ју, п'ето́ју), пашырэннем галоснага «ê» (закрытага) пад націскам у адпаведнасці з былым «ѣ» (л'е́с, л'е́то, у водз'ê галоснага «ô» (закрытага) пад націскам у закрытым складзе (гôд, кôт, паро́г, сал'о́дкі, гадо́ў), мяккімі зычнымі «ц'», «дз'», «с'», «з'», «л'», «н'» і цвёрдымі «ш», «ж», «ч» у адпаведнасці з былым спалучэннем падобных зычных з «ј» (пла́ц'е, судз'а́, кало́с'е, гал'о́, нас'ê н'о, лама́ч'е) або захаваннем гэтых спалучэнняў наогул (пла́ц'је, судз'ја́, кало́с'је, пало́з'је, гал'јо́, нас'ен'јо.ламач'је); у галіне граматыкі — канчаткам «-а» ў назоўным склоне мн. л. ў назоўнікаў н. р. (во́кна, с'о́ла, сла́ва, пал'а́) і канчаткам «-е» ў назоўнікаў м. р. (нажэ́, кавал'е́), канчаткам «-ôм» пад націскам у давальным склоне мн. л. ў назоўнікаў м. р. (дубо́м, быко́м, брато́м) і канчаткам «-ôх» пад націскам у месным склоне мн. л. (у дубо́х, на быко́х, па брато́х), канчаткам «-ôм» пад націскам («-ум» не пад націскам) у месным склоне адз. л. м. і н. р. ў прыметнікаў і займеннікаў (у пусто́м, у сухо́м, у мајо́м, у то́м, у но́вум, у гэ́тум), канчаткам «-е (-а)» у 3-й асобе адз. л. цяперашняга часу абвеснага ладу дзеясловаў 1-га спражэння (ідз'е́, н'ас'е́, гул'а́је, с'ачэ́, п'іша) і інш. Гэтыя асаблівасці ў сваім пашырэнні ў гаворках на ПдЗ рэспублікі ўтвараюць мяжу дыялекту прыблізна каля лініі Воранава — Дзяржынск — Бабруйск — Рэчыца. Гаворкі ўнутры дыялекту (паводле іх адрозненняў) падзяляюцца на 3 групы: слуцкую, гродзенска-навагрудскую і мазырскую (усходнепалескую).

Паміж паўн.-ўсх. і паўд.-зах. дыялектамі вылучаецца група сярэднебеларускіх гаворак, якія склаліся ў працэсе ўзаеманакладання і «размыву» берагоў супрацьлеглых дыялектаў на іх стыку (у выніку змешвання іх «прыбярэжных» гаворак і ўзаемаўплыву). Таму гэту групу гаворак часам называюць і пераходнай. Аднак у выніку ўзаемадзеяння тоесных рознадыялектных асаблівасцей склаліся тут і некаторыя спецыфічныя сярэднебел. дыялектныя рысы гібрыднага, або гіперычнага, характару. Такімі з'яўляюцца, у прыватнасці, канчатак «-о» ў назоўным склоне адз. л. назоўнікаў н. р., якія абазначаюць малых у жывёл і птушак (ц'ал'о́, жараб'о́, птушан'о́; гібрыд паўн.-ўсх. канчатка «-о́нак» і паўд.-зах «-а»), націскныя канчаткі «-ец» і «-ыц' (-іц')» з фінальным зычным «ц» і ненаціскны канчатак «-е (-а)» у 3-й асобе адз. л. цяперашняга часу абвеснага ладу дзеясловаў як 1-га, так і 2-га спражэнняў [ідз'е́ц', н'ас'е́ц', крычы́ц', грым'іц', але хо́дз'а, но́с'а гул'а́је, рэ́жа; гібрыд паўн.-ўсх. канчаткаў «-ец', -іц'(-ыц')» і паўд.-зах. «-е (-а)» і «-іц' (-ыц')» у залежнасці ад спражэння дзеяслова], форма адз. л. ж. р. прошлага часу з націскам на аснове ў дзеясловаў 1-га спражэння з націскам на асабовым канчатку (н'е́сла, в'е́зла, п'е́кла), канчатак творнага склону мн. л. назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў з цвёрдым зычным «м» (дама́мы, з малады́мы, з імы) і інш. Межы сярэднебел. міждыялектнай групы гаворак вызначаюцца ўмоўна межамі дыялектаў.

Паўн.-ўсх. і паўд.-зах. дыялекты разам з групай сярэднебел. гаворак складаюць асноўны масіў гаворак бел. Д. м., іх аб'ядноўвае шэраг тыповых і важных для бел. нацыянальнай мовы агульных асаблівасцей: дзеканне і цеканне (дз'ен', дз'адз'ка, ц'іха, п'ац'), губна-губны паўгалосны гук «ў» (воўк, вяро́ўка), фрыкатыўны заднепаднябенны «г» (год, ц'агну́ц'), аканне (недысімілятыўнае і дысімілятыўнае), мяккія зычныя ў становішчы перад галоснымі «е», «і» і інш.

Асноўнаму масіву гаворак бел. Д. м. тэрытарыяльна супрацьпастаўляецца па сваіх асаблівасцях заходнепалеская група гаворак. Гаворкі гэтай групы адрозніваюцца адсутнасцю дзекання і цекання (маюць цвёрдыя зычныя «д», «т» і мяккія «д'», «т'» (ден', темны, д'іты, т'ітка), губна-губным зычным «в» (вовк, вырэ́вка), фарынгальным гукам «г» (го́лка, т'агну́ты), цвёрдымі зычнымі перад галоснымі «е», «і (ы)» (зыле́ны, лыпа, пыты) і інш. Зах.-палеская група гаворак з'яўляецца часткай дыялекту бел.-ўкр. нацыянальна-моўнага сумежжа. Аддзяляецца ад асноўнага масіву гаворак прыблізна па лініі Пружаны — Ганцавічы — Целяханы — Лунінец — Столін. Дыялекты ў іх сучасным структурна-тэрытарыяльным выглядзе — пераважна вынік дывергентнага развіцця ў мінулым асобных старажытных усх.-слав. груп гаворак у працэсе іх тэрытарыяльнага пашырэння і ўзаемадзеяння з інш. роднаснымі і няроднаснымі гаворкамі.

Паводле мясцовых асаблівасцей, што ўзнікалі ў частках Д. м. ў выніку розных культурна-гіст. умоў развіцця, бел. Д. м. падзяляецца на 5 асноўных дыялектных зон, якія аб'ядноўваюць гаворкі рознай дыялектнай прыналежнасці.

Спецыфічнымі асаблівасцямі гаворак паўночна-заходняй дыялектнай зоны з'яўляецца агульнае скланенне ўсіх назоўнікаў ж. р. (гус'а́, мыша́, як з'амл'а́, душа́), ужыванне дзеепрыслоўяў прошлага часу ў ролі выказніка (јон прышо́ўшы, ты там н'е бы́ўшы, дачка́ была́ захварэ́ўшы), указальнага займенніка «гэны», а таксама шматлікіх лексічных рэгіяналізмаў, у т. л. літуанізмаў і паланізмаў (тыпу дзірва́н, мэндлік, асвёр, конаўка, дзя́га, абру́с, сту́дня і інш.). Гэтымі і інш. асаблівасцямі аб'ядналіся ў занальную групу гаворкі зах. часткі паўн.-ўсх. дыялекту і сярэднебел. групы, а таксама паўн. часткі паўд.-зах. дыялекту.

Агульнасць гаворак супрацьлеглай паўднёва-ўсходняй дыялектнай зоны заключаецца ў такіх асаблівасцях, як вымаўленне звонкіх зычных у складзе ў канцавым становішчы (хл'еб, го́рад, ка́зка, сало́дкі), ужыванне прыназоўніка «паўз» (паўз хату, паўз дарогу), лексічных рэгіяналізмаў, у т. л. цюркізмаў (ка́рэц, каба́н, лаша́к, тава́р, каша́ра, ка́піца і інш.). Аб'ядноўваюць паўд.-ўсх. занальныя асаблівасці ўсх. частку гаворак паўд.-зах. дыялекту, сярэднебел. групы і часткова ўсх.-магілёўскай групы паўн.-ўсх. дыялекту.

У нейкай меры супрацьпастаўляюцца па сваіх асаблівасцях і тэрытарыяльна ўсходняя і заходняя дыялектныя зоны. Яны размяжоўваюцца прыблізна па мерыдыянальнай лініі Полацк — Мінск — Лунінец. Гаворкі ўсх. дыялектнай зоны характарызуюцца ўжываннем указальнага займенніка «еты», вымаўленнем спалучэння зычных «шн» (у словах тыпу малошны, смашны, рушны), ужываннем прыназоўніка «к» (к нам, к свя́ту, к ха́це), шэрагам асаблівых занальных слоўнікавых сродкаў, у т. л. запазычанняў з рус. мовы (кузнец, кукушка, свадзьба, амбар, хазаін, скацерка, мост і інш.). У зах. дыялектнай зоне мясцовыя гаворкі маюць наступныя асаблівасці: ужыванне ўказальнага займенніка «гэты (гэны)», прыназоўніка «да» (да нас, да свята, да ха́ты), вымаўленне тыпу малочны, смачны, ручны і інш. Слоўнік гаворак гэтай зоны характарызуецца лексікай сучаснага шырокага агульна-нар. ўжытку ў літаратурнай мове, а таксама запазычаннямі з польскай мовы (кава́ль, зязюля, вяселле, гаспадар, свіран, падлога, настольнік, ровер, арфа, возер, дзісь, фэст і інш.).

Цэнтральную (сярэднюю) дыялектную зону складаюць гаворкі, якія аб'ядноўваюцца недысімілятыўным (моцным) аканнем разам з толькі цвёрдым вымаўленнем зычнага гука «р» (рэ́чка, вару́, зв'е́р); маюць таксама шмат агульнага ў лексіцы. На аснове гаворак гэтай зоны фарміраваліся агульнапрынятыя нормы бел. літаратурнай мовы.

Д. м., мясцовыя гаворкі — моўная спадчына бел. народа. У апошнія гады ў сувязі з пашырэннем як сродку зносін бел. і рускіх літаратурных моў назіраецца натуральнае звужэнне ўжывання мясцовых гаворак. Змяняецца і сама Д. м.: страчваюцца яе мясцовыя асаблівасці і разбураюцца межы этнатэрытарыяльных разнавіднасцей. Былы стракаты дыялектны ландшафт робіцца больш аднастайным, згладжаным, нівеліраваным. Але шматвяковыя моўныя багацці, назапашаныя ў гаворках, не страчваюцца: яны асвоены і працягваюць асвойвацца літаратурнай мовай, ператвараючыся ў сродкі агульных

зносін; яны служаць таксама крыніцай неабходных звестак для розных галін навукі — лінгвістыкі, *этнаграфіі*, гісторыі, літаратуразнаўства і інш. Збіраннем матэрыялаў па фанетычнай сістэме, граматычнаму ладу і слоўніку мясцовых гаворак, а таксама вывучэннем і тлумачэннем яго займаецца *дыялекталогія*.

*А. А. Крывіцкі.*

**ДЭМАГРА́ФІЯ** (грэч. dēmos народ + + graphō пішу), грамадская навука пра ўзнаўленне насельніцтва. Вывучае заканамернасці і сацыяльную абумоўленасць нараджальнасці, смяротнасці, шлюбнасці, узнаўлення шлюбных пар, сем'яў і насельніцтва ў цэлым, даследуе змены яго ўзростава-полавай, шлюбнай, сямейнай, класавай структуры. Цесна звязана з шэрагам грамадскіх навук: гісторыяй, эканомікай, сацыялогіяй, этнаграфіяй, псіхалогіяй, геаграфіяй насельніцтва, сацыяльнай гігіенай і інш.

Насельніцтва — асноўная вытворчая сіла грамадства і спажывец матэрыяльных і духоўных даброт. Гэтым вызначаецца практычнае значэнне Д. У яе задачу ўваходзіць вывучэнне дэмаграфічнай сітуацыі, аналіз тэндэнцый і фактараў дэмаграфічных працэсаў у свеце, краіне, асобным рэгіёне і ў розных групах насельніцтва. Вялікае значэнне надаецца дэмаграфічнаму прагнозу. Выкарыстоўваючы статыстычныя, матэматычныя і ўласна дэмаграфічныя метады (аналіз пакаленняў, метад табліц дажыцця, пладавітасці, шлюбнасці і інш.), сав. Д. распрацоўвае тэорыю ўзнаўлення насельніцтва, дэмаграфічныя прагнозы, якія маюць вял. значэнне для навуковага планавання нар. гаспадаркі, абгрунтоўвае дэмаграфічную палітыку дзяржавы, тым самым уздзейнічае на сацыяльнае і эканам. развіццё сав. грамадства. Заканамернасці ўзнаўлення насельніцтва сав. Д. разглядае ў цеснай узаемасувязі з сацыяльна-эканам., паліт., культурнымі, прыроднымі фактарамі. На мяжы Д. і этнаграфіі склалася асобная галіна ведаў — этнічная Д., у задачы якой уваходзяць вызначэнне нацыянальнага складу пэўнай вобласці, краіны, даследаванне дынамікі нацыянальнага складу насельніцтва і колькасці асобных народаў у працэсе іх гіст. развіцця. Этнічная Д. аналізуе асноўныя паказчыкі ўзнаўлення насельніцтва (нараджальнасць, смяротнасць, шлюбы, разводы і інш.) у этнічным аспекце. Этнаграфія дапамагае Д. раскрыць уздзеянне на дэмаграфічныя працэсы асаблівасцей культуры розных народаў.

На Беларусі дэмаграфічныя даследаванні пачаліся ў 1890-я г. Па Мінску і Магілёву іх вялі мясцовыя гігіеністы А. А. Бекарэвіч і Л. І. Галынец, у пач. 20 ст. — С. М. Урванцоў, В. В. Кошалеў і інш. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі даследаванні па Д. пашырыліся. Прааналізаваны вынікі перапісаў 1923 і 1926. У 1928 выдадзена праца Б. Я. Смулевіча «Захворванне і смяротнасць насельніцтва гарадоў і мястэчак БССР». Д. Н. Паслаўскі вывучаў асаблівасці натуральнага руху насельніцтва рэспублікі. Значны матэрыял па Д. ёсць у працах М. В. Доўнар-Запольскага. У 1920—30-я г. бел. вучоныя найбольшую ўвагу аддавалі праблемам шлюбу і сям'і. Выйшла некалькі прац С. Я. Вальфсона («Сацыялогія шлюбу і сям'і», 1928, «Сям'я і шлюб у іх гістарычным развіцці», 1937, і інш.), апублікаваны працы С. З. Кацэнбогена «Спрэчныя пытанні генеаномii» (Працы БДУ. 1923. № 4—5), С. Топаза «Энгельс аб сям'і» (Бальшавік Беларусі. 1941, № 1) і інш. У 60—70-я г. пытанні Д. вывучаліся пераважна ў НДІ эканомікі і эканоміка-матэматычных метадаў планавання пры Дзяржплане БССР (А. А. Ракаў, Л. І. Маськоў, А. Н. Пешкава, С. А. Польскі, Я. І. Рубін, Л. І. Сліжанкоў, Л. П. Шахоцька і інш.). Распрацоўвалася сістэма дэмаграфічных мадэлей і матэматычных праграм для прагназіравання насельніцтва ў асобных рэгіёнах, абгрунтоўваліся асноўныя перадумовы і складаўся прагноз насельніцтва рэспублікі, абласцей, гарадоў і раёнаў, вывучаліся праблемы суадносін эканам. развіцця і дэмаграфічнай палітыкі, сацыяльна-эканам. аспекты нараджальнасці, смяротнасці і працягласці жыцця, маятнікавай міграцыі, старэння насельніцтва. Удасканальвалася метадалогія планавання працоўных рэсурсаў, распрацоўка сацыяльна-галіновай і дэмаграфічнай структуры занятасці насельніцтва БССР. Вывучаліся праблемы вялікіх і малых гарадоў, сельскага рассялення і працэсаў урбанізацыі ў рэспубліцы. У Ін-це эканомікі АН БССР метадамі матэматычнай статыстыкі даследаваліся ўплыў сацыяльна-эканам. фактараў на міграцыю насельніцтва, сістэмы гарадскіх паселішчаў БССР. У Бел. політэхнічным ін-це вывучаюць праблемы развіцця сям'і і змены нараджальнасці, у БДУ — праблемы сям'і і шлюбу (М. Р. Юркевіч), вядуцца тэрытарыяльныя даследаванні праблем народанасельніцтва і працоўных рэсурсаў БССР (Б. А. Манак). Бел. гігіеністы даследуюць агульныя пытанні ўзнаўлення насельніцтва (Дз. П. Бяляцкі), дзіцячую і перынатальную смяротнасць.

У пач. 1980-х г. цэнтр даследаванняў па Д. перамясціўся ў Ін-т эканомікі АН БССР, дзе створаны аддзел Д. і працоўных рэсурсаў. Тут даследуюцца тэарэтычныя пытанні Д., механізм кіравання дэмаграфічнымі працэсамі і занятасцю насельніцтва, асаблівасці ўзнаўлення працоўнага патэнцыялу, распрацоўваюцца меры дэмаграфічнай палітыкі, дэмаграфічныя прагнозы і інш. У НДІ аўтаматызацыі сістэм планавання і кіравання нар. гаспадаркай пры Дзяржплане БССР распрацоўваюцца матэматычныя праграмы, вядуцца разлікі перспектыў колькасці насельніцтва па рэспубліцы і абласцях. НДІ эканомікі і эканоміка-матэматычных метадаў планавання пры Дзяржплане БССР распрацоўваюцца балансы працоўных рэсурсаў. У Бел. дзярж. навукова-даследчым і праектным ін-це горадабудаўніцтва вывучаюцца асаблівасці і заканамернасці урбанізацыі насельніцтва, у Бел. навукова-даследчым і праектна-вышукальным ін-це па будаўніцтву на сяле — заканамернасці сельскага рассялення.

*Г. І. Каспяровіч, Л. П. Шахоцька.*

**ДЭМАНАЛО́ГІЯ** народная (ад грэч. daimōn бажаство, дух + logos вучэнне), сукупнасць міфічных уяўленняў, заснаваных на першабытнай веры ў духаў (нячысцікаў), якія нібыта памагалі або шкодзілі чалавеку ў яго справах. Вобразы Д. уласцівы і традыцыйным нар. вераванням і сусветным рэлігіям. Большасць вобразаў бел. нар. Д. дахрысціянскага паходжання. У Д., як і ў міфалогіі, з'явы навакольнага свету адухоўлены нар. фантазіяй, адлюстраваны ў выглядзе фантастычных істот. Дэманалагічныя ўяўленні звязваліся з прыроднымі з'явамі (духі прыроды), гаспадаркай і хатнім побытам (хатнія духі), нягодамі, хваробамі, прычым пераважалі вобразы злой сілы. Нар. фантазія надзяляла іх чалавечымі рысамі; знешне падобнымі да чалавека (пераважна на старога дзядка з сівой барадой).

Сярод духаў прыроды вылучаліся *лясун* — гаспадар лесу, *вадзянік* — дух вады, *палявік*, *жыцень* — духі палёў. Існавалі павер'і пра лазавіка, багніка, што нібыта жылі ў лазняку, багне. Большасць павер'яў пра хатнія духі звязана з уяўленнямі пра «апекуна» дома і гаспадаркі *дамавіка*, побач з якім бытавалі ўяўленні пра хлеўніка, гуменніка, лазніка, ёўніка (апошняму часта ахвяроўвалі сноп жыта, каб не спаліў ёўню). Хваробы, паводле павер'яў, чынілі цётухны (увасабленне ліхаманкі), крыксы, начніцы (увасабленне дзіцячых хвароб), *маровая панна* (увасабляла мор, эпідэмію). Увасабленнем трывожнага сну была *мара*. Найбольш пашыраным у нар. Д. быў вобраз *чорта*, які лічыўся прычынай усякай бяды, няшчасця, зла. Пад уплывам хрысціянскай Д. сваімі ўчынкамі і рысамі характару ён стаў падобны на д'ябла і служыў яго сінонімам. У канцы 19 — пач. 20 ст. вобразы нар. Д. страцілі рэлігійнае значэнне і асталіся ў фальклоры як персанажы нар. мастацкай фантазіі (сустракаюцца пераважна ў былічках і чарадзейных казках).

*М. Ф. Піліпенка.*



**ЕЖА.** Характар Е. і харчавання беларусаў вызначаліся накіраванасцю іх гаспадаркі. Стараж. славяне былі пераважна земляробамі, таму раслінная Е. для беларусаў спрадвечная. Значнае месца ў харчаванні займалі дзікарослыя расліны (шчаўе, цыбуля лугавая, часнок палявы, баршчавік, крапіва, лебяда), ягады, грыбы. Асноўныя спосабы захоўвання прадуктаў — сушэнне, квашэнне; пазней — саленне. Рыбу (уюноў), грыбы, садавіну сушылі ў печах. Большую рыбу, мяса сушылі на паветры, пазней — капцілі. Найбольш старажытныя пашыраны від расліннай Е. да нашагу часу — каша. Яе варылі з абтоўчанага цэлага або з сечанага (круп) зерня і молатага (мукі). Кашу з цэлага зерня ячменю, радзей пшаніцы,— *куццю, грыцу,* гушчу — гатуюць і ў наш час, пераважна як абрадавы (на куццю, *радзіны, памінкі, дзяды*). Крупяную кашу — традыцыйную Е. беларусаў — варылі гал. чынам з проса і аўса, ячных і грэцкіх круп, гатавалі з малаком, мясам, салам, каўбасой. Рэдкія мучныя цестападобныя стравы калісьці былі асноўнай Е. у пост і да нядаўняга часу шырока бытавалі на Беларусі. Паводле спосабу прыгатавання адрозніваліся квашаныя *(кваша, саладуха, кулага),* няквашаныя *(калатуша, кулеш,* саламаха, *лямешка)* і з соладу (саладуха, путра). З аўсянай мукі гатавалі *кісель, жур, талакно.* Былі шырока вядомы рэдкія мучныя стравы — *зацірка, галушкі.* Традыцыйная Е. беларусаў (як і інш. славян) *бліны* з жытняй, пшанічнай, грэцкай, радзей ячнай мукі. Бліны пяклі раніцай на снеданне, іх бралі з сабой у поле, у дарогу. Каштоўным і шанаваным прадуктам з мукі быў *хлеб* (жытні, пшанічны), яго пяклі з рознымі дабаўкамі — бульбай, буракамі, у галодныя гады — з жалудамі, мякінай. Хлеб звычайна выпякалі вялікімі (па 4— 6 кг) боханамі («як падняць»), круглымі або прадаўгаватымі (буханкі, буханы, букаты, куліды). Пяклі на чэрані, падсцілаючы пад яго свежае капуснае, дубовае, кляновае ці хрэнавае лісце, аер. Буханкі абгладжвалі вадой, часам на свята ўкачвалі мукой (называлі паляніцамі ці пірагамі). Рэзаў (кроіў) хлеб лустамі, скібамі звычайна гаспадар сям'і. Першы кавалак зваўся акраец ці акрайчык (казалі: «На табе акрайчык, каб быў сын Мікалайчык»), а вельмі тоўсты (на ўсю буханку) — абертка, аколіца, луста, скіба. Як не было хлеба, на снеданне раніцай пяклі пры агні *скавароднік* (з хлебнага цеста, якое яшчэ не падышло) або *праснак, корж* (з праснага цеста, часам замешанага на сыроватцы). Елі замест хлеба, бралі з сабой у дарогу, часам у госці. Святочнае печыва — пірагі — звычайна рабілі з пшанічнай мукі. Адным з галоўных прадуктаў харчавання была таксама гародніна. Сырымі елі рэпу, рэдзьку, агуркі, моркву, цыбулю, часнок. Гарох і боб парылі і пражылі; капусту, буракі, бручку, агуркі квасілі, салілі; рэпу, бручку, моркву парылі і пяклі. Рэдкія, звычайна кіслыя стравы (на першае) варылі з капусты, буракоў і бацвіння, з салёных агуркоў, са шчаўя, грыбоў, рыбы. Агуровы пустацвет кідалі ў квас, халаднік для паху. Першыя стравы варылі густымі (казалі «Гушча дзяцей не разганяе»). З 18 ст. ў харчаванні беларусаў вялікае месца займае *бульба,* якая стала штодзённай сялянскай Е. З бульбы гатавалі розныя стравы, яна ішла як дабаўка да мучных і гароднінных. Бульбу варылі цэлую і рэзаную, чышчаную і ў лупінах, пяклі, смажылі. З дранай бульбы пяклі і пякуць *дранікі* і *бабку,* з тоўчанай робяць *камы,* з пакрышанай — *булён.* Бульба ідзе на прыгатаванне *клёцак, калдуноў,* запяканак, піражкоў. Налічваюць звыш 200 страў з бульбы, таму і называюць яе на Беларусі другім хлебам. З малочных прадуктаў спажывалі малако, тварог, сыр, масла, смятану, сыроватку, маслёнку (скалоцівы), малодзіва (серу). Малако елі халодным, гатаваным, але пераважна кіслым. Сырадой здаўна лічыўся лекавым сродкам. Для заквашвання малака не ўжывалі і не ўжываюць ніякіх спецыяльных заквасак — яно кісне само. На тварог кіслае малако адтопліваюць у печы, заліваюць у спецыяльны палатняны *клінок,* з якога сцякае сыроватка. Тварог у клінку завязваюць, кладуць паміж дошчачкамі пад камень (гнёт), праз пэўны час атрымліваецца сыр. Яго спажываюць свежым, у пост сушылі або складалі ў дзежку і залівалі растопленым маслам (масленіца, *брынза*). На сыроватцы рабілі *халаднік,* варылі *крупнік,* пяклі бліны. Даўнейшы спосаб атрымання масла — праз адагрэў смятаны, пазней яго сталі збіваць (калаціць) у глінянай пасудзіне, потым у спецыяльных *бойках.* Смятану збіраюць з кіслага малака або з салодкага (якое пастаяла ў халодным месцы). Спажываюць смятану як закрасу для *баршчу,* квасу, да бліноў і інш. Значна меншае месца ў харчаванні беларусаў займалі мясныя стравы. Спажывалі свіное мяса, бараніну, мяса свойскіх птушак, значна радзей — мяса кароў, цялят (ёсць сведчанні, што ў старажытнасці мяса вала́ не елі). Мяса спажывалі сырым, вараным, печаным, вэнджаным. Найбольш пашыраная страва з сырога мяккага свінога мяса — *каўбаса.* Мяса захоўвалі таксама ў свіным страўніку *(коўбіку).* Сала, здор салілі з прыправамі. Сала рэзалі кавалкамі па памеру дзежкі, тады яно (добра прасоленае) не жаўцела і добра захоўвалася. Елі яго сырым, печаным (скваркі); тукам і здорам закрашвалі стравы; унутраны тлушчператаплівалі (percatоп, смалец). Тлушч з авечак, бараноў спажывалі толькі ператопленым (лой), з гусей, качак, курэй вытаплівалі смалец. Са свіных вантроб рабілі *вантрабянку* (сальцісон), з крыві — *крывянку,* варылі юху, боршч. З ног, галавы гатавалі *квашаніну.* У той дзень, калі калолі кабана, гаспадары наладжвалі са свежыны багатую вячэру, якую называлі свежынай, паголоўшчынай ці верашчакай. На вялікія святы заможныя сяляне пяклі лепшыя часткі свіной тушы, цяляці, часам цэлыя *кумпякі* або парася. Мяса перад гэтым трымалі ў расоле з прыправай, перад выпечкай абмазвалі жытнім цестам.

Час прыёму Е. залежаў ад пачатку і заканчэння работы. На снеданне варылі бульбу, пяклі бліны, яешню (на З Беларусі першы прыём Е. часам называлі абедам). Наступная яда была ў паўднёвы час (12 — 14 гадзін; абед, ці полудзень). На першае елі боршч з мясам, салам, здорам або алеем, грыбамі; на другое — кашу, камы ці інш. страву з бульбы. На заканчэнне абеду елі малочны крупнік ці булён; запівалі квасам, кампотам, кіслым малаком. У поле таксама бралі квас, кашу, бліны і інш. У доўгія летнія дні паміж абедам і вячэрай палуднавалі (падвячорквалі, у часе «як сонца зверне»). На вячэру звычайна варылі якую-небудзь свежую страву (бульбу, булён), пілі малако. Е. беларусаў залежала ад пары года, ад ступені заможнасці гаспадаркі. У летняй Е. пераважала свежая гародніна — агуркі, зялёная цыбуля з квасам, боб, а таксама малочныя стравы; на перыяд цяжкіх с.-г. работ імкнуліся захаваць сала, каўбасы, коўбік. Восень, зіма былі больш багатымі на хлеб, крупы, мяса, назапашаную гародніну. Вясна была самай галоднай парой. Царкоўныя законы вызначалі перыяды посту (каля 200 дзён у год), калі забаранялася скаромная (мясная і малочная) Е. Посная Е. — расліная і з рыбы. Традыцыйнымі поснымі стравамі былі мучныя — кулага, саладуха, кісель, галушкі, талакно; боршч ці квас з грыбамі, рыбай; селядцы. Асноўнай закрасай у посныя дні быў алей, тоўчанае льняное і канаплянае семя, цёрты мак. Выкананне сямейных і каляндарных абрадаў звязана з прыгатаваннем *абрадавых страў* і *абрадавага печыва.* У наш час Е. беларусаў стала больш разнастайнай: з'явіліся новыя прадукты харчавання, сталі шырока ўжывацца стравы інш. народаў. Аднак многія бел. нацыянальныя стравы па-ранейшаму карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў рэспубліцы і вядомы за яе межамі.

*Г. Ф. Вештарт.*

**ЕЗ**, загарода на мелкаводных рэчках і пратоках, якой перагароджвалі шлях рыбе. Будаваліся ў выглядзе частакольных платоў, платоў-плятнёў або загацей з камення, галля і ламачча. У адтулінах загароды ставілі рыбалоўныя пасткі *(бучы, нераты, венцеры)*. Выкарыстоўваліся пераважна вясной, калі рыба са спадам вады вярталася з залітых лугоў і затok. У 19 — пач. 20 ст. на Палессі пры дапамозе Е. лавілі аслабленую за зіму рыбу, якая сплывала па рэках. У праёмы такіх Е. устаўлялі паплавы. У Слуцкім і Мазырскім пав. Е. рабілі ў выглядзе запруды, што служыла таксама людзям для пераходу праз рэчкі. У Цэнтр. і Усх. Беларусі над Е. рабілі памосты з дошак (седжы), на якіх размяшчаліся рыбакі са снасцямі (волакам, сакам). Калі рыба заплывала ў сеткавы мяшок, яго падымалі на памост. Е. быў пашыраны на Беларусі са старажытных часоў. Запруду без адтулін і пастак называлі *закотам*. *І. М. Браім.*

**ЕЛЬСКІ** Аляксандр Карлавіч (псеўд. Бацян з-над Пцічы, Літвін-грамадзянін; 16.6.1834, в. Дудзічы Пухавіцкага р-на — 10.9.1916), беларускі пісьменнік, этнограф, гісторык, краязнавец, публіцыст ліберальнага кірунку. Чл. Акадэміі ведаў у Кракаве (1892). Скончыў Мінскую гімназію (1852). З 1890-х г. жыў у Замосці (Пухавіцкі р-н), дзе стварыў літаратурна-краязнаўчы музей, у фондах якога было каля 20 тыс. рукапісаў, 7 тыс. кніг, больш за 1 тыс. гравюр, калекцыі карцін, манет і археалагічных знаходак. Гісторыі, этнаграфіі, фальклору, літаратуры і мове прысвечаны працы Е. на польск. мове «Заўвагі аб сялянскім пытанні» (1884), «Пра беларускую гаворку» (1885), «Слоўца пра матэрыялы для вывучэння беларускай гаворкі, этнаграфіі і літаратуры» (1886), «Нарыс гісторыі мясцовай гаспадаркі ў супастаўленні з народнымі звычаямі ад першабытных да астатніх часоў» (1893—97), «Гістарычныя звесткі пра радзівілаўскую ткальню паясоў у Слуцку» (1893), «Нарыс звычаяў шляхты ў супастаўленні з эканомікай і доляй народу ў Польшчы і Літве» (1897—98), «Гістарычныя звесткі пра фабрыку шкла і аздобных люстэрак ва Урэччы Радзівілаўскім на Літве» (1899) і інш. У артыкулах, якія напісаў для «Геаграфічнага слоўніка каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх» апісаў мясцовасці многіх бел. паветаў. Выдаў зб. «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага (крывіцкага) народа» (1908). Аўтар дыдактычных вершаваных і празаічных твораў на бел. мове ў духу асветніцтва і хрысціянскай маралі. *А. І. Мальдзіс.*

**«ЕПАРХІЯЛЬНЫЕ ВЕДОМОСТИ»**, назва час., афіцыйных органаў епархій (у праваслаўнай царкве — царкоўна-адміністрацыйная тэрытарыяльная адзінка на чале з архірэем), якія выдаваліся ў Расіі ў 2-й пал. 19 ст.— 1917. Мелі 2 часткі: афіцыйную (друкаваліся ўрадавыя пастановы, указы і распараджэнні Сінода, царкоўная хроніка) і неафіцыйную, дзе змяшчаліся матэрыялы па этнаграфіі, фальклору, літаратуры, археалогіі, краязнаўству, бібліяграфіі, гісторыі царквы. Выдаваліся «Гродненские епархиальные ведомости» (1901—15, Гродна), «Литовские епархиальные ведомости» (1863—1916, Вільня, Масква), «Минские епархиальные ведомости» (1869—1917, Мінск, Разань), «Могилёвские епархиальные ведомости» (1883—1917, Магілёў), «Полоцкие епархиальные ведомости» (1874—1917, Віцебск). *Я. С. Умецкая.*

**ЕЛАЧКА**, вясельны атрыбут, які сімвалізаваў дзявоцтва маладой, яе самую, маладога, іх яднанне. Лакальныя назвы гільца, рагацінка. Уяўляла сабой невялікае дрэўца, дакладней яго верхавінку або галінку, зімой — сасны або елкі, летам — яблыні, вішні, грушы, каліны. Е. рабілі ў маладой і маладога або толькі ў маладога, утыкалі ў адмыслова спечаны хлеб, у некаторых мясцовасцях — у *каравай* або спец. падстаўку з дрэва. Упрыгожвалі разнакалернымі стужкамі, невялікімі букецікамі з каляровай паперы, каліны, аўса, барвінку, васількоў, якія прывязвалі да галінак. Нярадка да галінак прымацоўвалі і васковыя свечкі. Віць (упрыгожваць) Е. запрашалі маладых дзяўчат, перад віццём частавалі. Часам віць пачыналі маці або бацька маладых. Рабілі Е. ў *суборную суботу* перад або пасля рашчынання каравая. У час віцця спявалі спецыяльныя песні, пасля заканчэння віцця патрабавалі выкуп (пачастунак). На працягу ўсяго вяселля Е. стаяла на стале перад маладымі. У час абраду *звядзення*, расплятання касы і надзявання чапца маладой на Е. запальвалі свечкі. Пасля падзелу каравая Е. разрывалі. Е., зробленую ў хаце маладога, яго дружка, павесіўшы на яе вяночак з руты, прыносіў да маладой. *Л. А. Малаш.*

**ЕЎНЯ**, старадаўняя гаспадарчая пабудова для прасушкі збожжавых культур, канапель і льну. Канструкцыйна больш простая, чым *асецъ*. Звычайна квадратная ў плане зрубная пабудова з імшанымі сценамі, насыпной столлю і шчыльна падагнанымі дзвярамі. У кутку ля ўваходу ў невялікім паглыбленні складалі з камення або збівалі з гліны печ (без дымахода). Снапы ставілі на тонкіх жэрдках (цапках, цапніках, каласніках). Жэрдкі свабодна перамяшчаліся на дзвюх умацаваных на выш. каля 1 м ад падлогі бэльках. Е. часам непасрэдна прымыкала да гумна або будавалася на пэўнай адлегласці ці нават унутры яго. Тады яна не мела страхі. Магла выкарыстоўвацца як лазня. Пашырана на Віцебшчыне, Магілёўшчыне і часткова Гомельшчыне. *У. С. Гуркоў.*



«Жабка». Выконваюць жыхары вёскі Ціхаволя Свіслацкага раёна.




**«ЖАБКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Бытаваў, у асноўным, на Пд Бел. Палесся і Віцебшчыне і выконваўся мужчынамі. Асноўная тэма танца — жартоўнае пераймание рухаў і скокаў жаб, часта з прымяненнем трукавых рухаў. «Ж.» выконвалася часцей за ўсё сола, адным ці двума мужчынамі: абапіраючыся аб падлогу рукамі,

сагнутымі ў локцях, і пальцамі выцягнутых ног, адзін з іх падскокамі рухаўся па падлозе, другі, расстаўляючы ногі, скакаў над ім. Сярод шматлікіх варыянтаў руху «Ж.» — скокі па руках з выцягнутымі ўперад нагамі, скокі адзін цераз аднаго ў гарызантальным становішчы, кулянне праз галаву і інш. Часам танец выконвалі жанчыны, зрэдку з прыпеўкамі ці імітацыяй квакання жаб. Месцамі танцоры спявалі:

Скача жабка па дарожке,
Скача, выцягнуўшы ножкі.

Ці:

Скачу, скачу жабку
На чатыры лапкі.
А як стану рагачом,
Выскачу туркачом. *Ю. М. Чурко.*

**ЖАБРАКІ́**, людзі, што існавалі за кошт міласціны і ахвяраванняў. У часы феадалізму і капіталізму жабравала пераважна безмаёмаснае насельніцтва: беззямельныя і збеглыя сяляне, гарадская галыцьба-плебс (гл. *Лёзныя*), а таксама калекі («уломныя»), хворыя, састарэлыя, сіраты і інш. Часам жабравалі вандроўнікі — рамеснікі, манахі, салдаты, студэнты і інш., якія па просьбе, «за росказанье» ці проста «па міласці божай» атрымлівалі грошы, бясплатнае харчаванне, начлег і інш. У бедных сем'ях жабраваць пасылалі дзяцей, каб здабыць сродкі для існавання. Цяжкія ўмовы жыцця, войны, эпідэміі, неўраджаі і інш. фактары абумовілі спагадлівыя адносіны бел. насельніцтва да Ж.: за кошт цэркваў, рэлігійных брацтваў, рамесных цэхаў пры манастырах утвараліся шпіталі, начлежкі і інш. дабрачынныя ўстановы. Абавязковым лічылася раздача міласціны (т. зв. «ялмужная») у дні царкоўных, цэхавых, гарадскіх і інш. свят і ўрачыстасцей. У 16—18 ст. пры гарадскіх магістратах-радах існавалі спец. службовыя чыны — «старасты калецкія», якія складалі асобныя «рэестры калецкія» і сачылі за жыццём Ж. У 16—19 ст. у шэрагу гарадоў Беларусі (Капылі, Магілёве, Слуцку і інш.) існавалі спец. аб'яднанні — «цэхі ўломных», «брацтвы Ж.» і інш., якія мелі свае ўласныя статуты («вількеры»), органы самакіравання, часам — прывілеі, касы ўзаемадапамогі і інш. Часта Ж., каб захаваць свае сакрэты ці сакрэты брацтва, карысталіся *ўмоўнымі мовамі* (гл. таксама *Адверніцкая гаворка, Любецкі лемент, Семежаўскіх жабракоў мова).* *У. І. Чаквін.*

**ЖАК**, традыцыйная рыбалоўная снасць; сеткавы мяшок (куль) на абручах з адной або двума перагародкамі (горламі) унутры; тое, што і *венцер.*

**ЖАЛЕ́ЗНЫ ЧАЛАВЕ́К**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. славянскіх народаў; міфічная істота, што жыве ў балоце або ў лесе. Паводле ўяўленняў — волат з жалеза, які ахоўвае свае ўладанні. На Палессі ім звычайна палохалі дзяцей, каб не хадзілі адны ў лес: «Не йдзі ў лес, бо там у болоці такі зелезны чоловек ходзіць да ўхопіць цебе» (в. Млінок-Перароўскі Жыткавіцкага р-на). Этнограф К. Машыньскі адзначаў, што элемент «жалезны» ў міфалогіі беларусаў і інш. слав. народаў часта выконваў функцыю адпужвання: параўн., жалезная баба, што жыве пад мастом (Палессе), жалязнячка — старая, якой палохалі дзяцей, каб не хадзілі ў агарод (руск.), жалезныя грудзі ў русалак і зубы ў розных дэманаў (серб. Гвоздензуб) і інш. Паводле Л. Р. Барага, у сюжэтах чарадзейных казак некаторых народаў («Дух у блакітным святле»), Ж. ч.— выканаўца волі юнака, якому належаць цудадзейныя прадметы, што даюць уладу над ім. Аб глыбокай старажытнасці ўяўленняў пра Ж. ч. і іх праслав. характары сведчаць паралелі ў міфалогіі інш. славян, а таксама супадзенне ці блізкасць звязанай з ім атрыбутыкі; напр., балг. Железен човек жыве ў балоце, серб. Гвоздени човек — у калодзезі і г. д. Вобраз Ж. ч. як ахоўніка багаццяў роднай прыроды ад несумленных яе пераўтваральнікаў выкарыстаў у рамане «Неруш» В. Казько (1981). *Г. А. Цыхун.*

**ЖАЛЕ́ЙКА**, старажытны духавы язычковы музычны інструмент. Называлі таксама дудка, ражок, пішчык, чаротка. Канструкцыя Ж. пры захаванні вызначальнай адзінкі — адзінарнага язычка-*пішчыка* — дапускае варыянтнасць інш. элементаў. Мясцовыя разнавіднасці Ж. адрозніваюцца матэрыялам (дрэва, саломіна, гусінае пяро, чарот, рог), колькасцю адтулін (4—12, ёсць і без іх), адсутнасцю або наяўнасцю раструба, прынцыпамі вырабу і мацавання язычка (бывае наразны або прывязаны), памерамі (100—360 мм). Гучанне моцнае, рэзкае, крыху гугнявае. Ігралі на Ж. сола і ў ансамблі са скрыпкай, цымбаламі, гармонікам паасобку або ў розных камбінацыях, часам далучалі і барабан. У рэпертуары жалеечнікаў песенныя і танцавальныя мелодыі, вясельныя маршы, часам пастухоўскія сігнальныя найгрышы. Інструмент быў пашыраны па ўсёй Беларусі ў музыкантаў-прафесіяналаў і пастухоў; дзеці выкарыстоўвалі Ж. для забавы. З сярэдзіны 19 ст. інтэнсіўна выцясняецца *кларнетам.* У наш час трапляецца рэдка. Ж. апета ў бел. нар. песнях і ў прафесійнай паэзіі (упамінаецца ў ананімнай паэме 1-й пал. 19 ст. «Тарас на Парнасе»; першы зб. вершаў Я. Купалы названы «Жалейка»). Ж.— важны канструкцыйны элемент *дуды.* *І. Дз. Назіна.*



Жалейкі: (злева направа) чаротка і пішчыкі.

**ЖАНІ́Х**, с у д ж а н ы, мужчына, які мае нявесту; будучы муж нявесты; мужчына, які ўступае ў шлюб; халасты мужчына, які думае жаніцца і шукае нявесту.





Жалейка.

Жалейка — дудка язычковая.

**«ЖАНІ́ЦЬБА КО́МІНА»**, абрад, у якім выяўляецца культ агню-багача, хатніх духаў-продкаў і, магчыма, Перуна. Называлі таксама «жаніцьба лучніка», «жаніцьба пасвета». Вядома больш за 10 запісаў абраду, зробленых, у асноўным, на Палессі ў 19 — пач. 20 ст. Упершыню на яго звярнуў увагу П. В. Шэйн у пач. 1880-х г. «Ж. к.» праводзілася два разы ў год: на Сымона (1 верасня с. ст., у асобных вёсках крыху раней ці пазней), калі скарачаўся светлавы дзень і пачынала рана цямнець, і вясною на Фамін тыдні (тыдзень пасля вялікадня), калі асн. сялянская работа была ў полі. Пад комінам (прымацаванай да спецыяльнай адтуліны на столі ў хаце вял. трубой, сплеценай з лазы ці зробленай з меш-

кавіны і абмазанай глінай) вешалі пасвет (лучнік) — звычайную патэльню ці квадрат металічнай рашоткі. На ім гарэла лучына, што асвятляла хату селяніна ў доўгія асеннія і зімовыя вечары. Комін упрыгожвалі ручнікамі, кветкамі, стужкамі. «Частавалі» агонь



1



2

Віцебскі **жлоб** 18 ст.: 1 — агульны выгляд; 2 — канструкцыя віртушкі.

на пасвеце гарэлкаю, кідалі кавалкі сала, зерне, арэхі і інш. ласункі. Прысутныя выказвалі пажаданні ў сямейным і гасп. дабрабыце, каб спорылася работа. Жанчыны спявалі вясельную песню «жаніху» («Ой, прыйшлі ж ночанькі доўгенькі, //Пасвяці ж нам, коміну беленькі.//Мы ж цябе кветкамі ўбіралі,//Бервяночкам, рутай апеизалі...»), з якой відаць, што маладыя — Комін і Праца («Праца наша — дзеўка гарненька,//Палюбіці Коміна раденька»). У песні выказвалася просьба, каб комін будзіў усіх рана, даваў святло для хатніх работ, «крýчу, вéрчу і буры праганяў,//Дым і сажу нёс ворагам...». Да язычніцкага абраду «Ж. к.», які ўжо даўно не бытуе, царкоўнікі прыстасавалі свята «Жаніцьбы свечкі» (свята свечкі). *А. Ю. Лозка.*

**«ЖАНІ́ЦЬБА ЦЯРЭ́ШКІ»**, народная гульня, прымеркаваная да *каляд*. Папулярная на Пн Беларусі. Выбраныя са старэйшых удзельнікаў «маці» і «бацька» злучаюць хлопцаў і дзяўчат у пары («жэняць» іх). Гульня спалучаецца з рознымі танцамі («Бычок», «Бярозка», полькі), вясёлай мітуснёй (дзяўчаты ўцякаюць па чарзе ад хлопцаў уздоўж выстраеных у дзве лініі



Выдзеўбаная **жлукта**-кадаўб без дна ў цэбры. Вёска Запярнніе Пухавіцкага раёна.

пар, а хлопцы даганяюць іх), прыпеўкамі на калядны напеў. *Ю. М. Чурко.*

**ЖАРСТВА́**, дробныя каменьчыкі, што ўтвараюцца пры натуральным разбурэнні горных парод або спецыяльным крышэннем камянёў на дробныя часткі. Лакальная назва жарствіца. Ужываецца ў *ганчарстве* ў якасці кампанента фармовачнай масы для надання ёй большай вогнетрываласці. Атрымлівалі Ж. з камянёў, перапаленых у лазні, хатняй печы ці на вогнішчы. Іх раздрабнялі ў звычайнай драўлянай ступе таўкачом з металічным канцом або пры дапамозе прыстасавання накшталт застараж. зерняцёркі (на камені з увагнутай паверхняй Ж. расціралі акруглыя па форме каменным бітуком). *С. А. Мілючэнкаў.*

**«ЖГУ́ЦІКІ»**, гульня. Рэгіянальная назва «У жутку». На пачатку выбіраюць «дзеда» (або «бабу»), які будзе кіраваць гульнёю, трымаць на сваіх каленях закрыты твар аднаго з удзельнікаў. Хто-небудзь, каго затым трэба адгадаць, б'е па спіне таго, чый твар закрыты, жгуцікам (скручаная хустка або ручнік). М. Я. Нікіфароўскі зафіксаваў гульню, дзе ўдзельнікі сядзелі кругам. Яны перадавалі пад каленямі жгуцік, які неабходна было схапіць, каб не атрымаць удар па спіне. Гульня развівала спрыт, псіхалагічныя навыкі. У паметах на палях некаторых кніг «Ж.» зафіксаваны ў 14 ст. *А. Ю. Лозка.*

**«ЖИВА́Я СТАРИНА́»**, часопіс. Выдаваўся аддзяленнем этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства ў Пецярбургу ў 1890—1916. Выходзіў 4 разы на год. Друкаваў даследаванні і матэрыялы па этнаграфіі і фальклору народаў Расіі, а таксама замежных краін. Асн.



Бандарная **жлукта** з карытцам.

ўвагу аддаваў апісанню побыту, абрадаў, жылля, адзення, нар. медыцыне. З артыкуламі, прысвечанымі бел. этнаграфіі і фальклору, выступалі У. М. Дабравольскі, М. В. Доўнар-Запольскі («Заметкі па беларускай этнаграфіі», 1893, вып. 2, 3, 1894, вып. 1), П. П. Дзямідовіч («Беларускія дзіцячыя гульні», 1898, вып. 3— 4), Я. Ф. Карскі, М. М. Косіч («Літвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх побыт і песні», 1901, вып.1—4), Е. Р. Раманаў, М. А. Саковіч, А. К. Сержпутоўскі, П. В. Шэйн. Змяшчаў рэцэнзіі на працы бел. этнографаў і фалькларыстаў, справаздачы пра этнагр. экспедыцыі. *Г. А. Пятроўская.*

**ЖЛОБ**, тып беларускага народнага лялечнага тэатра *батлейка*. Быў пашыраны ў асн. на Віцебшчыне ў 17 — пач. 19 ст. Спалучаў статычную лялечную панараму з рухомым тэатрам ценяў. Паказы звычайна былі звязаны з рэлі-

гійным святам нараджэння Хрыста і адбываліся ў час каляд (жлобам на Віцебшчыне называлі яслі для кармлення жывёлы; паводле рэлігійнага міфа, Хрыстос у час пакланення вешчуноў ляжаў у яслях). Знешне Ж. нагадваў макет 2-яруснай 3-купальнай царквы. Ніжні ярус меў 3 нішы-аддзяленні. У сярэдняй (кампазіцыя з нерухомых лялек — сцэна «Пакланенне вешчуноў»), якая мела шкляныя дзверцы, у час паказу запальвалі свечку і статычная лялечная мізансцэна адлюстроўвалася на задняй люстраной сценцы. Аддзяленні, дзе адбывалася дзеянне (верхні ярус і бакавыя нішы ніжняга), заклейваліся прамасленай паперай — экранамі, за якімі ставілі вяртушкі (рухала іх цяпло ад запаленай свечкі або батлейшчык). У ніжняй частцы яе замацоўваліся плоскія, выразаныя з бляхі або картону, фігуркі персанажаў, якія ад святла запаленай свечкі давалі



Жорны. Гродзеншчына. Пачатак 20 ст.

на экране адбітак рухомых ценяў-сілуэтаў. Дзею каменціраваў сам батлейшчык або суправаджалі адпаведныя надпісы. У Ж. выконваліся сцэны «Уцёкі ў Егіпет», «Паход цара Ірада», «Падарожжа вешчуноў у Іерусалім». Паказы суправаджаліся спяваннем псалмоў і кантаў. *М. А. Каладзінскі.*

**ЖЛУ́КТА,** бандарная пасудзіна для запарвання бялізны. У тыповым варыянце мела кадзепадобную форму, да 1 м у вышыню, на трох ножках (утвараліся даўжэйшымі клёпкамі). Бялізну складвалі ў Ж. і залівалі шчолакам або перасыпалі попелам (найлепшым лічыўся попел бярозавай драўніны), потым залівалі кіпенем. Праз некаторы час ваду злівалі праз адтуліну ў дніршчы (закрывалася коркам), а бялізну паласкалі ў балеі ці ночвах. Часам у сялянскай гаспадарцы выкарыстоўвалі і больш архаічны від Ж.— *кадаўб*, зроблены са ствала дрэва, часта без дніршча (ставілі яго ў цэбар ці кадку). У сялянскім побыце Ж. выкарыстоўвалася да сярэдзіны 20 ст. *В. С. Цітоў.*

**ЖМЕ́НЯ,** адзінка колькасці лёну, збожжа (зжатых каласоў). Метрычнае значэнне прыблізнае, адпавядае колькасці сцёблаў, што можна ўзяць жменяй за адзін раз.

**«ЖМУ́РКІ»,** дзіцячая гульня. Рэгіянальныя назвы «Хавалкі», «Хованкі», «Плюшч», «Кулюкушкі». Існуе некалькі варыянтаў. Калі гуляюць на вуліцы, на пачатку пры дапамозе лічылкі («Кацілася торба з высокага горба,// А ў той торбе хлеб-пшаніца.// З кім жадаеш падзяліцца?»), «палачкі» выбіраюць, каму «жмурыцца», «плюшчыць». Выбраны заплюшчвае вочы, а ўсе хаваюцца, пасля чаго ён шукае іх. Першы знойдзены «жмурыцца». Гульня працягваецца. Калі гуляюць у хаце (гульня «Сляпак»), адпаму з ігракоў завязваюць вочы і ён ловіць астатніх. Ёсць і больш тэатралізаваныя «Ж.», вядомыя пад назвамі «Слепа кура», «Лавіць куры», «Куры», «У ката», «Дуб» і інш. На некаторых малюнках на палях сярэдневяковых кніг адлюстраваны эпізоды гульні, падобнай да «Ж.» («Раман пра Аляксандра», 1338—44). *А. Ю. Лозка.*

**ЖО́ЛАБ,** 1) прадаўгаватае паглыбленне, выдзеўбанае ў чым-небудзь, а таксама прыстасаванне падобнай формы з дошак для сцёку вадкасцей або перасыпання чаго-небудзь. 2) Драўлянае карыта, у якое закладваецца корм жывёле.

**ЖО́РНЫ,** прылада для памолу зерня; ручны млын. Былі каменныя і драўляныя. Каменныя Ж. ў Ст. Русі ўжываліся паўсюдна. У Паўд.-Зах. і Паўн.-Усх. Русі іх рабілі з пясчаніку, буйназярністага граніту, вапняку, дыярыту. Складаліся Ж. з 2 каменных дыскаў дыяметрам 35—50 см, таўшчынёю 10—13 см, пастаўленых у скрынку ці станок. Каб мука лепш ссыпалася, паверхню ніжняга каменя рабілі трохі выпуклай, а верхняга — увагнутай, для лепшага размолу зерня рабочая паверхня мела насечкі. Пазней майстравалі больш масіўныя, удасканаленыя Ж. з камянямі дыяметрам 55—70 см, выш. 15—20 см. Ніжні нерухомы камень звычайна быў таўсцейшы, верхні (верхавік) — больш лёгкі; ён меў у сярэдзіне адтуліну для засыпкі зерня, мацаваўся, падымаўся і апускаўся пры дапамозе паўпрыцы — жалезнай крыжавіны або пласціны, якая круцілася на шпяні, замацаваным у ніжнім камені. Камень прыводзіўся ў рух пры дапамозе доўгага круглага кія (млёна), верхні канец якога ўстаўляўся ў бальку ці ў адтуліну спецыяльнай планкі, прыбітай да сцяны, а ніжні — у жалезную скабу на краі верхняга каменя. Сустракаліся Ж. з кароткай ручкай. Шпень прымацоўваўся на спец. падстаўцы, якую паднімалі і апускалі клінам, каб мяняць вышыню стаяння верхняга каменя і рэгуляваць мліва. Пры адсутнасці камянёў ці пясчаніку жарнавыя паставы рабілі з дубовых калодак, на рабочую частку якіх набі-



Жорны каменныя.




Жорны: 1—2 — драўляныя; 3 — каменныя.

валі веерападобнымі радамі кавалачкі чыгуну або жалеза. Такія Ж. сустракаліся пераважна на Палессі, большасць з іх не мелі паўпрыцы. Формы і памеры станка былі розныя: чатырохвугольны — 80×80 ці 90×90 см (пашыраны па ўсёй Беларусі), круглы — дыяметрам да 80 см (сустракаўся на Палессі і Цэнтр. Беларусі), у выглядзе почваў (ва Усх. і Паўд.-Усх. Беларусі). Яшчэ ў канцы 19 — пач. 20 ст. Ж. былі неабходнай прыналежнасцю амаль кожнага сялянскага двара. Стаялі яны звычайна ў сенцах, радзей у хаце або варыўні. За дзень на каменных Ж. можна было змалоць 2—3 пуды зерня. Да 1920-х г. значную частку зерня бел. сяляне малолі ў Ж., бо плата за мліва складала дзесятую частку прывезенага ў млын зерня, што для беднякоў было не пад сілу. Ва ўжытку захаваліся да 1950-х г. *Л. І. Мінько.*



**Жупан** з кунтушом (партрэт Кшыштафа Веселоўскага невядомага мастака). 1636.

**ЖУПА́Н**, старадаўняе верхняе мужчынскае і жаночае адзенне ў палякаў, беларусаў і інш. славянскіх народаў. У 16—19 ст. быў абавязковай часткай адзення шляхты, мяшчан, укр. казацтва. Шылі пераважна з белага або шэрага сукна (радзей жоўтага, блакітнага атласу, аксаміту). Крой двухбортны з вузкімі рукавамі і стаячым каўняром, спінка прыталеная, з бакоў устаўляліся кліны. Пярэдзія гладкія полкі зашпільвалі на гузікі. Звычайна падпяразвалі поясам. Паверх Ж. насілі *кунтуш.*

**ЖУР**, даўняя страва з аўсянай мукі. Лакальная назва кісяліца. Аўсяную муку (з неабтоўчанага аўса) або вотруб'е рашчынялі вялікай колькасцю вады. Каб хутчэй укісала, клалі кавалачак хлеба. Калі рошчына (мел) укісала, яе працэджвалі на сіта. Як адстаіцца, рэдкую частку (квасліны, малако) злівалі і варылі Ж., а з густой (цэда) — кісель. Вядомы і інш. спосаб прыгатавання: муку або вотруб'е рашчынялі густа і варылі кісель, а астаткі ад працэджвання залівалі вадой яшчэ раз і гатавалі Ж. Страву падсольвалі, заскварвалі або запраўлялі алеем і елі звычайна з бульбай (такі Ж. вядомы паўсюдна на Беларусі). На Цэнтр. Палессі Ж. варылі няквашаным. На Паўн.-Зах. Беларусі і Палессі Ж. гатавалі з рошчыны на хлеб — рошчыну разводзілі вадой і варылі, дабаўлялі прыправы, сала. Ж. елі гарачым. *Г. Ф. Вештарт.*

**ЖУРАВЕ́ЛЬ**, традыцыйнае прыстасаванне пры *студні* для даставання вады. Укапаная ў зямлю саха, у развілцы якой замацаваны рухомы на металічнай восі рычаг-ва́га. Да верхняга канца рычага-вагі прывязаны драўляны шост з вядром, да ніжняга — процівага. У 1-й чвэрці 20 ст. з паніжэннем узроўню грунтавых вод Ж. пачаў выходзіць з ужытку. На змену яму прыйшло новае пад'ёмнае прыстасаванне — *калаўрот.* У наш час Ж. спарадычна сустракаецца паўсюдна на Беларусі. *У. С. Гуркоў.*



**Журавель** студні. Вёска Абакумы Лосўскага раёна.

**«ЖУРАВЕ́ЛЬ»**, традыцыйны танец. Лакальныя назвы «Жораў», «Бусел». Паходзіць са старажытнаслав. *карагодаў,* дзе выканаўцы пераймалі рухі жураўля. Танцоры выстройваліся ланцужком ці парамі і ішлі па крузе, выпісваючы розныя зігзагі, потым выстройваліся касяком, рабілі паклоны з узнятымі і злучанымі наверсе рукамі, што нагадвала рухі жураўля. У асобных варыянтах танца захаваліся элементы гульні і гумару, уласцівыя абраду *калядавання;* «журавель» танцаваў, імправізаваў, торкаў дзюбай прысутных. «Ж.» выконвалі часта з прыпеўкамі. Напраклад, у Брэсцкай вобл. спявалі:

> Журавель, журавель
> Павадзіўся да бабіных канапель.
> А я цябе, журавушка, злаўлю,
> Да сама накармлю. *Ю. М. Чурко.*

**«ЖУРАВЕ́ЛЬ»**, танец-гульня. Некалькі дзяўчат танцуюць, іншыя ахоўваюць іх ад «жураўлёў» (хлопцаў), спяваюць: «Пасею я лён, канапель,//Налятае журавель...». Калі хлопцы лавілі дзяўчат, спявалі ўсе разам: «Ішлі хлопцы мяжою,//Пілі смалу дзяжою...» (Запіс А. Я. Васільевай, 1879, в. Беседкі Мазырскага пав.). У запісе П. М. Шпілеўскага (1853) выканаўцы павольна паднімаюць то правую, то левую нагу, імітуючы крокі жураўля. У цэнтры круга ходзіць хлопец — «журавель». Калі пары кружацца, «журавель» імкнецца вырваць якую-небудзь дзяўчыну з рук кавалера. Дзяўчаты спяваюць: «Да ўнадзіўся журавель//Да да нашых канапель...». Калі дзяўчаты закрычаць: «Хапай, журавель!» — ён павінен схапіць за руку і станцаваць з дзяўчынай адзін круг. «Жураўлём» у крузе застаецца хлопец без пары. Вядома і гульня «У жорава» (запіс У. М. Дабравольскага, 1903, Смаленская губ.), у якой дзейнымі асобамі выступалі «маці», «жораў» і «дзеці». «Маці» размаўляе з «жоравам», які хоча зласціць і з'есці «дзяцей». «Жораў» хапае «дзяцей», яны ловяць злодзея і дзяўбуць яго пальцамі па макаўцы. Тое ж робяць і з «маці», якая не ўберагла «дзяцей». У танцах і гульнях пра жу-

раўля выяўляюцца стараж. вераванні ў культ птушак (жывёльны *татэмізм*). Паводле назіранняў М. М. Нікольскага, на Палессі жураўель лічыўся «падаўцом усякага дабра». *А. Ю. Лозка.*

**«ЖУРАВЕ́ЛЬ»**, маска-персанаж у старажытным народным калядным абрадзе. Узнікла ў часы язычніцтва і звязана, як мяркуюць, з татэмічным ушанаваннем аднайменнай птушкі. Найбольш пашырана на Палессі, дзе захавалася і ў наш час. Называюць таксама «Жораў», «Бусел».

Маска ўяўляе сабой насаджаную на кій драўляную птушыную галаву, да якой прымацоўвалі прызбораную посцілку ці прасціну. На ролю «Ж.» выбіралі юнака, здольнага пластычна перадаць звычкі і характар паводзін птушкі. Як маска-персанаж нар. смехавой культуры «Ж.» уваходзіў у абходны гурт калядоўшчыкаў поруч з *«Казой»*, *«Кабылай»*, *«Мядзведзем»*. Выступленні яго мелі імправізацыйнагульнёвы характар: ён танцаваў, даёўб прысутных, заглядваў у гаршкі са стравай і г. д. *М. А. Каладзінскі.*

**«ЖУРНА́Л МИНИСТЕ́РСТВА ВНУ́ТРЕННИХ ДЕЛ»**, часопіс, орган Міністэрства ўнутраных спраў Расіі. Выдаваўся ў Пецярбургу ў 1829—61. Змяшчаў афіцыйныя дакументы, звесткі пра дзейнасць міністэрства, статыстычныя матэрыялы, апісанні гарадоў, губерняў і інш. Некалькі статыстычных публікацый прысвяціў Беларусі: «Статыстычны агляд губернскага горада Магілёва» (1837, 1840), «Статыстычныя звесткі пра Віцебскую губерню» (1841), «Медыка-статыстычныя нататкі пра Магілёўскую губерню» (1848) і інш. Праблемам развіцця эканомікі Беларусі, становішча сялян, пытанням гісторыі, этнаграфіі і фальклору беларусаў прысвечаны артыкулы і нарысы «Паўночна-Заходні край імперыі ў мінулым і сучасным выглядзе» М. І. Надзеждзіна (1843), «Нарысы Беларусі» Р. А. Падбярэскага (пер. з польск., 1845), «Дарожныя нататкі пра Заходнюю і Паўднёва-Заходнюю Расію» К. І. Арсеньева (1845), «Нататкі пра Беларусь» М. С. Шчукіна (1846). *С. А. Кузняева.*

**«ЖУРНА́Л МИНИСТЕ́РСТВА НАРО́ДНОГО ПРОСВЕЩЕ́НИЯ»**, часопіс, орган Міністэрства нар. асветы Расіі. Выдаваўся ў Пецярбургу ў 1834—1917. Складаўся з афіцыйнай часткі (матэрыялы мін-ва) і неафіцыйнай (артыкулы па нар. асвеце, класічнай філалогіі, гісторыі, літаратуры, фальклору). На старонках часопіса з матэрыяламі, прысвечанымі Беларусі, выступалі М. В. Доўнар-Запольскі, Я. Ф. Карскі, Ф. І. Леантовіч, П. М. Шпілеўскі і інш., змяшчаны рэцэнзіі на працы М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава, М. Федароўскага, П. В. Шэйна і інш. Выдадзены зводныя паказальнікі зместу часопіса. *Г. Л. Пятроўская.*

**ЖЫВЁЛАГАДО́ЎЛЯ**, галіна сельскай гаспадаркі па развядзенню свойскай жывёлы; адзін з найважнейшых традыцыйных заняткаў беларусаў. Уключае гадоўлю буйной рагатай жывёлы, свіна-, авечка-, труса-, звера-, коне-, птушкагадоўлю, *рыбаводства*. Ж. забяспечвае насельніцтва прадуктамі харчавання (малако, мяса, масла, яйкі і інш.), лёгкую прамысловасць сыравінай (воўна, скура і інш.), служыць цяглавай сілай (коні, валы), дае асн. арганічныя ўгнаенні (гной); з адходаў Ж. атрымліваюць некаторыя кармы (касцяная мука, абястлушчанае малако), лекавыя прэпараты (сываратні, гармоны) і інш.

Узнікла ў глыбокай старажытнасці, калі чалавек пачаў прыручаць дзікіх жывёл, выкарыстоўваць іх для гасп. патрэб. Арганічна спалучалася з *земляробствам*. На Беларусі здаўна разводзяць буйную рагатую жывёлу, свіней, коней, авечак, хатнюю птушку. Асноўнае месца займае буйная рагатая жывёла. З сярэднявечча мясцовая парода, т. зв. літоўская, ці літоўска-беларуская (яе продак еўрап. тур), была прыстасавана да суровых умоў утрымання і непераборлівая ў кармах, пры добрым доглядзе хутка прыбаўляла ў вазе і давала тлустае малако. На З Беларусі яна была некалькі буйнейшай («зубровая парода»), часта выкарыстоўвалася і ў якасці рабочай жывёлы. Асабліва многа буйной рагатай жывёлы («гаўяды») разводзілі на Пд, дзе ў 2-й пал. 19 ст. кожны сялянскі двор (10—20 членаў сям'і) меў у сярэднім 6—10 галоў (без уліку маладняка). Конегадоўля была больш развіта на паўн. усходзе, дзе здаўна конь быў асноўнай цяглавай сілай. Коні мясцовай пароды былі невысокага росту (120—130 см), аднак параўнаўча моцныя і вынослівыя ў рабоце. У паўд.-зах. і цэнтр. частках Беларусі асноўнай цяглавай сілай былі валы; коней выкарыстоўвалі толькі пры баранаванні палеткаў і часткова пры транспартных перавозках. У 18 ст. сярэдняя норма рабочай жывёлы на сялянскі двор складала 1,6—1,7 запрэжкі (запрэжка — 2 валы ці 1 конь). Дробную свойскую жывёлу (свіней, авечак) разводзілі ў сялянскай гаспадарцы па ўсёй Беларусі. Гадавалі пераважна свіней мясцовай пароды. Найбольшая колькасць авечак была ў Гродзенскай губ. Звычайна тут пакідалі на зіму 4—6 авечак. Разводзілі ў асноўным грубашэрсных, з канца 18 ст. і танкарунных. Авечкі давалі сыравіну для сялянскіх промыслаў (воўна для світ, сярмяг, андаракоў, аўчына для кажухоў і шапак) і былі важнай крыніцай харчавання. Авечкагадоўля была базай для развіцця суконна-шарсцяной прамысловасці. Развядзенне коз не адыгрывала прыкметнай ролі ў гаспадарцы.

Структура Ж. і яе экстэнсіўны характар мала мяняліся на працягу ўсяго сярэднявечча. Прыкметныя змены адбыліся толькі пасля адмены прыгоннага права (1861). Побач з ростам прадукцыйнай жывёлы павялічылася і колькасць коней, якія ўсё часцей замянялі валоў. Аднак асноўнае месца ў структуры Ж. па-ранейшаму займалі буйная рагатая жывёла і свінні. Буйной рагатай жывёлы на Беларусі ў разліку на душу насельніцтва было ў 1,5 раза болей, чым у сярэдняй паласе Расіі. З развіццём капіталізму Ж. ў памешчыцкіх гаспадарках набыла таварны характар: паляпшаліся пародныя якасці жывёлы, кармавая база, усё больш прадукцыі прадавалася на мясцовых і расійскіх рынках, пастаўлялася на экспарт. У сялянскіх гаспадарках Ж. была паўнатуральнай: у 1912 29,1 % сялянскіх двароў не мелі коней, 15 % — кароў.

У наш час Ж. набыла малочна-мясны кірунак і стала прамыслова-аграрнай галіной вытворчасці. Сучасныя напрамкі ў яе развіцці звязаны з удасканаленнем форм уласнасці і с.-г. разліку, развіццём арэнднага падраду, умацаваннем кармавой базы, селекцыяй і павышэннем пароднасці статку. У Ж. прыкметна скарацілася колькасць коней і авечак. У асабістых гаспадарках сельскіх жыхароў пэўную ролю адыгрывае вырошчванне свіней, буйной рагатай жывёлы, а таксама птушкагадоўля. *В. С. Цітоў.*

**ЖЫВІ́ЦА**, тэрпенцін, смалістае рэчыва, якое здабываюць падрэзкай (падсочкай) кары хваёвых дрэў (пераважна сасны); сыравіна для вырабу *каніфолі* і *шкіпінару*. Здабыча Ж. вядома на Беларусі з 16 ст. Выраблялі з Ж. белы вар, якім смалілі дратву, лодкі і інш. судны. Як промысел здабыча Ж. існуе з 1920-х г. У 1926 у Стара-Барысаўскім і Крупскім лясніцтвах Мінскай вобл. было здабыта за сезон 9,3 т Ж. на плошчы 202 га, у 1930 падсочана 7 тыс. га хваёвых насаджэнняў. Здабывалі Ж. рабочыя, аб'яднаныя ў арцелі прамысловай кааперацыі. У пасляваенны перыяд здабыча Ж. ў рэспубліцы павялічылася больш як у 3 разы ў параўнанні з 1940; у 1958 яна склала 10 % агульнай здабычы ў СССР. Цяпер запасы жывічнай сыравіны (сасна 70—75 гадоў) скараціліся, але яе здабываюць 16 аб'яднанняў і прадпрыемстваў рэспублікі. З 1930 Ж. перапрацоўвае Барысаўскі папярова-лесахімічны з-д.

**ЖЫЖА́ЛЬ**, персанаж беларускай міфалогіі, бог агню, апякун рамёстваў, найперш — кавальскага. Уяўляўся магутным дэманам, які пад зямлёю ў вогненнай кузні куе зброю, каб скінуць *Перуна*. Ж. паважалі за мужнасць і непакорнасць, але баяліся яго. Упэўнены былі, што, калі Ж. доўга працаваў у кузні, перагравалася зямля і пачыналася засуха, гарэлі тарфяныя балоты, лясы. Калі выходзіў з-пад зямлі, Пярун у гневе кідаў у Ж. вогненныя стрэлы-маланкі. Не папаўшы ў Ж., маланка магла быць прычынаю пажару. У размове з дзецьмі дарослыя часам агонь называюць «жыжаль», «жыжа». *М. Ф. Піліпенка.*

**ЖЫЛЛЁ**, збудаванне, у якім жыве чалавек. Узнікла на золку цывілізацыі як сховішча ад непагоды і драпежных звяроў. Належыць да асноўных матэрыяльных даброт грамадства. Развілося ад *будкі* і зямлянкі (паўзямлянкі) да наземнай адна- і шматкамернай пабудовы. Тыпы і разнавіднасці Ж. абумоўлены ўзроўнем развіцця прадукцыйных сіл, геагр. асяроддзем, характарам сац. адносін, узроўнем буд. тэхнікі і культурна-бытавымі традыцыямі. Дыферэнцыяцыя тыпаў Ж. пачалася з падзелам грамадства на класы, а з узнікненнем гарадоў вылучыліся тыпы гарадскога і сельскага Ж. (гл. *Вёска, Горад, Мястэчка*). Аднакамернай пабудове папярэднічала шматкамернае Ж. родавай абшчыны. На Беларусі паводле археалаг. даследаванняў шматкамернае Ж. вядома з жалезнага веку. Бытаванне Ж. складанай планіроўкі адзначаюць летапісы 10—12 ст. Гэта былі чатырохвугольныя і авальныя ў плане камеры, якія прымыкалі адна да адной і ўтваралі пабудовы плошчаю каля 20—25 м$^2$. З распадам першабытнаабшчыннага ладу і выдзяленнем з абшчыны асобных сем'яў шматкамерныя пабудовы пачалі змяняцца невялікім Ж., прызначаным для адной сям'і. Такое аднакамернае Ж. ўяўляла сабою зрубную пабудову з уваходам, які заўсёды рабіўся ў вузкай (тарцовай) сцяне. Аднакамернае Ж. задавальняла патрэбы сям'і: у ім працавалі, гатавалі ежу, адпачывалі, захоўвалі маёмасць.

У 17 — пач. 20 ст. асн. тыпамі сялянскага Ж. былі зрубныя 1-, 2-, 3-камерныя пабудовы. Аднакамернае Ж. — *хата* без *сянец*. 2-камернае Ж. ўтваралася далучэннем да хаты сянец. Спачатку сенцы не мелі пэўнага гасп. прызначэння, не вызначаліся сталым наборам рэчаў; у іх трымалі некаторыя гасп. прылады, летам спалі. Уваход у хату спачатку прыкрывалі нахільна пастаўленымі жэрдкамі, уцяплялі саломай, сенам і зямлёй. У больш развітой форме, якая захавалася да нашага часу, сенцы — гэта зрубныя *трысцен* або крытая дашчатая прыбудова да Ж. з задняга тарцовага боку. Аднакамернае Ж. доўгі час суіснавала побач з 2- і 3-камерным. Яшчэ ў 18 ст. А. Мейер адзначаў бытаванне ў беларусаў 1-камернага Ж. У 19 ст. яно сустракалася вельмі рэдка і не вызначала агульнага ўзроўню развіцця Ж. Прычыны яго захавання — чыста сацыяльныя: у такіх хатах жылі найб. бедныя сяляне. Самым пашыраным у бел. вёсцы было 2-камернае Ж. (хата + сенцы). У сенцах часта выгароджвалі *камору*. Комплекс з хаты і перагароджаных сянец яшчэ нельга назваць 3-камерным Ж. Больш ускладнены планіровачны тып Ж. — хата + сенцы + трэцяе памяшканне (жылое або гаспадарчае — камора, *клець*). Трохкамернае Ж. пашырана на Беларусі з 16 ст., але доўгі час існавала побач з 2-камерным. Падсобная прыбудова ў 3-камерным Ж. пачала паступова выконваць функцыі жылой: у камору або клець пераносілі спальнае месца асобных членаў сям'і. У працэсе далейшага развіцця гасп. пабудова з халоднай ператваралася ў памяшканне з печчу і пачынала выконваць функцыі хаты. З узмацненнем класавай дыферэнцыяцыі сялянства і выдзяленнем заможнай праслойкі ў бел. вёсцы 19 ст. тып Ж. хата + сенцы + хата пачаў выкарыстоўвацца для пашырэння жылой плошчы і паляпшэння бытавых умоў. Са з'яўленнем 3-камернага Ж. далейшае ўскладненне яго планіроўкі ішло за кошт унутранай сегментацыі. У сенцах ці *варыўні* магла выдзяляцца камора, у хаце — спальня, часам сенцы пераабсталёўваліся ў кухню і г. д. Сялянскае Ж. паўплывала і на структуру памешчыцкіх сядзібных дамоў, для якіх характэрна была анфіладная і калідорная планіроўка.

Асноўным тыпам Ж. гарадскога (пасадскага) насельніцтва ў 9—13 ст. была 1-камерная зрубная пабудова, набліжаная ў плане да квадрата плошчаю ў сярэднім каля 16 м$^2$. Ацяплялася яна па-чорнаму, глінабітнай печчу ці каменкай (раскопкі ў Тураве выявілі рэшткі печаў, чарэнь і сцены якіх складзены з плінфы). Гарады на Беларусі найб. бурна развіваліся ў 15—16 ст. У 17 ст. налічвалася 462 гарады і мястэчкі; у іх жылі рамеснікі, гандляры, а ў мястэчках — сяляне. Разнастайнымі паводле архітэктурнапланіровачных асаблівасцей былі тыпы тагачаснага гарадскога Ж. У аснове яго — 1-камерная клець. Спалучэнне яе з прырубамі (трысценамі), размешчанымі па восевай лініі асноўнага зруба ці пад прамым вуглом да яго, стварала розныя планіровачныя мадыфікацыі дома. Будаўнічая тэхніка, матэрыял і канструкцыйныя дэталі паўтаралі вясковае дойлідства, але на больш высокім тэхнічным і якасным узроўні. Дамы рамеснікаў і гандляроў спалучалі традыцыйнае Ж. і майстэрню або краму. У заможных гараджан дамы мелі развітую планіроўку, складаныя архітэктурныя формы. Некаторыя з іх былі 2-павярховыя, мелі адкрытыя галерэі, вежападобныя ганкі, печы з комінамі. На замкавых тэрыторыях размяшчаліся жылыя дамы буйной шляхты, гар. адміністрацыі, багатых рамеснікаў і гандляроў. На пасадах і ў слабодах (у Віцебску, напр., Узгорская, Задунаўская, Заручэўская, Задзвінская) сяліліся рамеснікі, дробныя гандляры. Заможныя мяшчане будавалі 2-зрубныя дамы з аднолькавых або розных памераў зрубаў пад двухсхільнай страхой. Найбяднейшая частка гарадскога насельніцтва жыла ў невялікіх *курных хатах* з земляной падлогай. У 18 ст. ў гарадах засноўваліся разнастайныя мануфактуры. Для наёмных рамеснікаў і майстроў (у Гродне, Паставах і інш.) будаваліся дамы амаль квадратныя ў плане (8×9 м), у якіх сціпла, спрошчана выкарыстаны барочныя формы (у Гродне, напр., пабудавана 20 такіх дамоў). Гэта была першая спроба комплекснай забудовы горада танным тыпавым маламетражным Ж. Для адміністрацыі і службовага персаналу будавалі 2- і 3-павярховыя дамы. Перапланіроўка гарадоў, распачатая ў канцы 18 ст. ў Расіі, у т. л. на Беларусі, адбілася на структуры гарадскога Ж.: у забудове цэнтра індывідуальны, разлічаны на адну сям'ю дом пачаў выцясняцца шматпавярховым шматкватэрным будынкам. На ўскраінах вялікіх гарадоў, а ў павятовых гарадах і мястэчках і ў цэнтры забудова аставалася ў пераважнай большасці 1-павярховай, драўлянай. І пазней бел. горад аставаўся драўляным (з 108 065 будынкаў, улічаных статыстыкай у 1914, 91 339 былі драўлянымі). Забудова рабочых ускраін мала чым адрознівалася ад вясковай.

Унутраная планіроўка ў бел. сялянскім Ж. вызначалася ўстойлівасцю; *печ* (у курнай хаце без коміна) размяшчалася ў правым ці левым вугле пры ўваходзе і вусцем была павернута да падоўжнай сцяны з акном. У процілеглым па дыяганалі ад печы вуглу знаходзіўся покуць (вялікі або кутны вугал, кут, куць, пакуцце) — пачэснае, ганаровае месца ў хаце. На покуці звычайна стаяў стол і знаходзілася *бажніца*. Ад покуці ўздоўж сцен размяшчаліся *лавы* шырынёю да 12 вяршкоў (52 см). Ад печы ўздоўж глухой сцяны насціламіся *палаці* — нары са шчыльна падагнаных адна да адной дошак. Пазней з'явіліся драўляныя ложкі. З рухомай традыцыйнай мэблі былі *ўслоны*: адзін або два стаялі каля стала, адзін — ля дзвярэй. На сцяне каля дзвярэй мацаваліся палічка для посуду, лыжачнік для лыжак. Для хавання рознага начыння і дробных рэчаў хатняга ўжытку служыла паліца — шырокая (да 40 см) з невялікім борцікам дошка, умацаваная на дубовых круках над дзвярамі або над прадпечным акном. Найбольш каштоўныя рэчы — святочнае адзенне, палатно, жаночы пасаг захоўвалі ў *куфрах* (скрынях). У 19 ст. з'явіліся суднікі — шафкі для посуду, лаву пачала выцясняць драўляная *канапа*. Разам з куфрамі і суднікам яна — адзін з першых прадметаў абсталявання, які апрача утылітарнага прызначэння служыў сродкам аздаблення Ж. З інш. элементаў эстэтычнага афармлення *інтэр'ера хаты* здаўна былі пашыраны вырабы ручнога ткацтва (ручнікі, абрусы, посцілкі і дываны), якія ўносілі ў сціплае памяшканне сялянскага Ж. святочны настрой. Беларускі селянін заўсёды ўпрыгожваў Ж. звонку. Адзін з самых пашыраных дэкаратыўных матываў — выява сонца з праменнямі. Сонца абагаўлялася, калі адкінуць міфічна-рэлігійныя напластаванні, яго лічылі крыніцай жыцця. І цяпер змешчаная на франтоне выява сонца ўпрыгожвае Ж. вясковага жыхара.

Дэкаратыўныя дэталі бел. архітэктурнай арнаментыкі глыбока самабыт-

ныя і нацыянальныя. У дэкоры выкарыстоўвалі тры асноўныя групы арнаментальных матываў: матывы нябесных цел, мясцовай фауны і флоры, геаметр. абстрактных форм. У арнамент аконных абрамленняў часта ўкампаноўвалі выкананыя ў тэхніцы прапільнай разьбы выявы птушак і звяроў (голуб, певень, конь, мядзведзь і інш.). Вільчыкі закрылін у двухсхільных стрэхах — найстарэйшыя традыц. ўпрыгожанні. Выкананыя ў тэхніцы аб'ёмнай разьбы вільчыкі рабілі трох тыпаў: канструкцыйныя — падвойныя, вертыкальныя — прымацаваныя да закрылін, змешаныя. На Віцебшчыне і Магілёўшчыне ў арнаментальнай разьбе пераважалі геаметр. кампазіцыі, на Гомельшчыне пашырана разьба ўсіх матываў.

Адметная асаблівасць знешняга афармлення сялянскага Ж.— арганічнае спалучэнне канструкцыі з дэкорам. Кожная архітэктурная дэталь, якая садзейнічае ўпрыгожанню Ж., уяўляе канструкцыйна неабходны элемент.

Перамога Кастр. рэвалюцыі і ўсталяванне калгаснага ладу абумовілі змены эканам. і культурнага аблічча бел. вёскі, стварылі ўмовы для ліквідацыі процілегласці паміж горадам і вёскай. Эвалюцыя вясковага Ж. цесна звязана з сацыяльна-эканам. і навукова-тэхнічным прагрэсам. Да рэвалюцыі адсутнасць сродкаў у сялян стрымлівала працэс удасканалення канструкцыі і планіроўкі Ж. Пасля рэвалюцыі пачало пастулова мяняцца аблічча Ж. Новыя хаты будавалі больш прасторнымі, светлымі, абавязкова на падвалінах і штандарах або мураваным фундаменце.

Узрасла тэндэнцыя да будаўніцтва пяцісценак. Дашчаная падлога замяняла земляную, з інтэр'ера сялянскай хаты знік лучнік. У развіцці сялянскага Ж. ў сав. час выразна вызначыліся некалькі кірункаў: змены буд. матэрыялаў, узбагачэнне арсенала буд. тэхнікі, змены ў афармленні інтэр'ера і ў характары яго знешняга аздаблення. З ростам агульнай культуры вёскі ўзмацнілася тэндэнцыя да ўскладнення і паляпшэння планіроўкі Ж. На цэнтр. сядзібах многіх калгасаў і саўгасаў ствараюцца сельскія пасёлкі, планіроўка і добраўпарадкаванне якіх не адрозніваецца ад пасёлкаў гар. тыпу.

Адбыліся змены і ў гар. Ж. З канца 1920-х г. пры буйных прадпрыемствах і на гар. ускраінах ствараліся рабочыя пасёлкі, якія забудоўвалі 1- і 2-павярховымі стандартнымі дамамі з 2- і 3-пакаёвымі кватэрамі, пачалі будавацца шматпавярховыя шматкватэрныя дамы для рабочых і спецыялістаў, інтэрнаты. З 60-х г. па-новаму вырашаюцца архітэктурныя, інжынерныя і эканам. праблемы горадабудаўніцтва. Індустрыяльныя метады будаўніцтва дазволілі будаваць мікрараёны — жылыя комплексы вял. масіваў. Удасканаленне планіроўкі кватэр вядзецца паралельна з пошукам новых архітэктурных форм і павелічэннем колькасці паверхаў. Значныя змены адбыліся і ў добраўпарадкаванні Ж. гараджан. Дамы з усімі камунальнымі выгодамі (электраасвятленне, цэнтр. ацяпленне, газ, каналізацыя, забеспячэнне халоднай і гарачай вадой і інш.) будуюцца і ў вялікіх, і ў малых гарадах. Новыя вясковыя будынкі паводле структуры і якасці набліжаюцца да гарадскіх. *У. С. Гуркоў.*

**«ЖЫТА»**, старажытны карагод. Выконваўся вясной на Юр'я: «хадзілі па ране (раннае жыта), калі ў ім ужо можа схавацца варона». Збіраліся ўсёй вёскай і адзін за адным ланцужком, праходзілі па палях. Наперадзе ўсіх хлопец нёс хлеб, упрыгожаны галінкамі елкі. На кожным полі хлопец круціўся ў сярэдзіне карагода, а вакол яго — карагод, які суправаджаўся рытуальнымі песнямі:

Дзе карагод ходзіць,
Там жыта родзіць,
А дзе не бывае,
Там улягае.

Зафіксаваны на Бел. Палессі. У Смаргонскім р-не зафіксаваны варыянт танца «Ж.», у якім выканаўцы імітавалі калыханне жыта і яго жніво касілкай. *А. Л. Варламаў.*

**ЖЫТНІЧКІ**, дзеці, якія нарадзіліся ў полі ў час жніва без дапамогі *бабкі-павітухі.*

**ЖЫТНЯЯ БАБА**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў, маці жыта; жаночая паралель «гаспадара» поля — жытня. На Беларусі яе ўяўлялі ў выглядзе фантастычнай жанчыны з каласамі на галаве і зоркамі па баках. У некаторых мясцінах «бабаю» называлі апошні сноп зжатага жыта, які апраналі ў жаночую кашулю, завязвалі на ім хустку, урачыста неслі ў хату і спявалі «спарышовыя» песні з пажаданнем добрага ўраджаю в наступным годзе. Жыта з апошняга снапа («бабы») часта захоўвалі да наступнага ўраджаю. Гл. таксама арт. *Дэманалогія.* *М. Ф. Піліпенка.*

**ЖЫЦЕНЬ**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў, «гаспадар» поля; яго жаночая паралель — *жытняя баба.* На Беларусі Ж. ўяўлялі ў выглядзе маленькага дзядка («жытні дзед») з доўгай барадой. Лічылася, што ён нібыта забяспечваў ураджай жыта — «даваў жыта», збіраў каласы на жытняй ніве нядбайнай гаспадыні і пераносіў іх на поле руплівай жняі. Яго паважалі таксама як духа багацця і дабрабыту. Пазней нар. вераванні пра Ж. зліліся з уяўленнем пра бога як вытворцу ўраджаю. Рэлігійнае ўяўленне аб ім знікла ў канцы 19 — пач. 20 ст. З вобразам Ж. звязаны земляробчы абрад *«завіванне барады».* Гл. таксама арт. *Дэманалогія.* *М. Ф. Піліпенка.*

**ЖЭРАСЦІ**, папярочныя жэрдкі-перакладзіны па абодвух канцах плыта, да якіх *віцамі* прывязвалі бярвёны. У некаторых рэгіёнах пашырана назва жаросці, рублікі.

**ЖЭРДКА**, элемент абсталявання сялянскай хаты, клеці. Лакальная назва пэст, апорстак. Ж. прымацоўвалі да бэлек з дапамогай кароткіх дошак, вяровак, рамянёў. У клеці на Ж. падвешвалі мясныя вырабы, каўбасы. У хаце іх звычайна размяшчалі каля печы, на іх вешалі для сушкі адзенне, посцілкі, ручнікі. Дошкі, на якіх Ж. мацаваліся да бэлек, разнастайныя па форме, упрыгожвалі разьбой, што дапаўняла маст. выразнасць *інтэр'ера хаты.* Як элемент інтэр'ера была пашырана па ўсёй Беларусі. *С. А. Сергачоў.*

**ЖЭРЛІЦА**, традыцыйная рыбалоўная снасць для лоўлі драпежнай рыбы, пераважна шчупакоў; тое, што і *старажня.*



**ЗАБАЛАЦЬ**, назва бавоўняных каляровых (чырвоных, сініх, чорных) ніткак для вышывання і ткання. Тэрмін З. бытаваў пераважна на У Беларусі (у некаторых рэгіёнах ён ужываўся побач з назвай *горынь*).

**«ЗАВЕЙНІЦА»**, традыцыйны танец. Па характару блізкі да *«Мяцеліцы».* Танцоры, нагнуўшыся, прабягалі парамі пад ручніком, які трымала ў выглядзе аркі адна з пар. Сав. балетмайстар К. Я. Галяйзоўскі, які бачыў бел. варыянт «З.», пісаў: «Ад хуткага бегу пры паваротах калона танцораў нахілялася, як веласіпедыст у час хуткай язды на трэку ці самалёт пры пасадцы. Першая пара, якая выбягала з-пад аркі, накіроўвалася, скажам, направа, другая неслася ўлева, трэцяя — управа, чацвёртая — улева і г. д. Шалёны тэмп, выкрыкі, мільгаценне спадніц і ручнікоў стваралі ілюзію мяцеліцы, урагана» (Галяйзоўскі К. Я. Вобразы рускай народнай харэаграфіі. М., 1964. С. 286). *Ю. М. Чурко.*

**ЗАВЕСА**, металічнае шарнірнае мацаванне рухомых частак архітэктурных збудаванняў і мэблі (дзвярэй, акон, варотаў і інш.), што давала ім магчымасць адчыняцца і зачыняцца. Металічная пласціна на шарніры ці 2 шарнірна злучаныя пласціны, адна з якіх мацуецца да нерухомай часткі збудавання ці вырабу (*вушака, шула,* сцяны), другая — да рухомай. На Беларусі найб. старажытная і пашыраная форма З.— адзінарная стужкавая. Яе выконвалі з доўгай палоскі металу і гарызантальна мацавалі да дзвярэй; адзін канец скручвалі ў трубку і надзявалі на крук, убіты ў шула. У сядзібным і культавым дойлідстве З. часта дэкарыравалі, аздаблялі насечкай у выглядзе нескладаных геаметрычных узораў: палосак,

крыжыкаў, трохвугольнікаў і інш. З. фігурна раскоўвалі, аздаблялі бакавымі спіралепадобнымі адросткамі, надавалі канцам абрысы ромба, трылісніка, раздвойвалі і закручвалі ўсярэдзіну ці ў процілеглыя бакі (дзверы касцёлаў у в. Крамяніца Зэльвенскага р-на, пач. 17 ст., і в. Слабодка Браслаўскага р-на, пач. 20 ст., царквы ў в. Олтуш Маларыцкага р-на, канец 19 ст., і інш.). Унікальным дэкорам вызначаліся З. ў інтэр'еры касцёла ў в. Цімкавічы Капыльскага р-на, выкананыя ў выглядзе дубовых галінак з лісцем і жалудамі. Двайныя З. мелі 2 шарнірна злучаныя пласціны-рычагі, аднолькавыя (сіметрычныя) ці розныя па форме





**Завеса.** Гарадскі пасёлак Івянец Валожынскага раёна. 19 ст.

**Завеса.** Гарадскі пасёлак Івянец Валожынскага раёна. Пачатак 20 ст.

і памерах (асіметрычныя). Яны характэрны пераважна для мэблі. У бел. нар. жыллі металічныя З. работы вясковых кавалёў пашырыліся з 19 ст., замяніўшы старажытны спосаб навешвання дзвярэй на *бегунах*. Дэкор іх больш сціплы: насечка зубілам у выглядзе геаметрычных фігур, раскоўванне канцоў і інш. У гасп. пабудовах сустракаюцца і ў наш час; у жыллёвым будаўніцтве саступілі месца прамысловым вырабам. *Я. М. Сахута.*

**ЗАВІВА́ННЕ,** вясельны абрад і адпаведныя атрыбуты, якімі маладую ўводзілі ў жаночы стан. Лакальныя назвы пакрыванне, чапанне. У розных мясцовасцях маладую завівалі на розных этапах вяселля: адразу пасля вянчання, пасля продажу братам яе касы, перад адпраўленнем да маладога, у маладога пасля *каморы*, непасрэдна ў каморы, у сенцах, а часам і ў самой хаце. У час абраду мужчыны не маглі прысутнічаць. Маладую садзілі на дзяжу (услон), пакрытую вывернутым кажухом (радзей на калені маладога). Сват маладой уносіў з каморы З. (пасмачкі лёну, *чапец* і намітку), пакладзеныя на *каравай*, які ляжаў на веку ад дзяжы. Калі абрад З. адбываўся ў хаце маладой, З. ўносіла яе маці. Замужняя сястра маладой, апранутая ў вывернуты кажух і мужчынскую шапку, або хросная маці (ці старшая сваццiя, цётка, братавая) тройчы прасіла ў прысутных дазволу (благаславення) завіць маладую, на што ўсе тройчы адказвалі: «Бог благаславіць». Потым завівальніца здымала вянок і стужкі з галавы маладой, а сяброўкі перашкаджалі ёй. Зняты вянок маладой адзявалі на галаву адной з таварышак, а стужкі раздавалі дзяўчатам. Валасы маладой падпальвалі з чатырох бакоў пакрыж скручанымі паміж сабой двума свечкамі. Каб забяспечыць маладым шчаслівае жыццё, трэба было агонь



**Завеса.** Вёска Слабодка Браслаўскага раёна. Пачатак 19 ст.

для запальвання свечак выкрасаць з першага разу. Таму да крэменя звярталіся з адпаведнымі заклінаннямі. Затым валасы маладой крышку падстрыгалі (даўней адразалі ўсю касу), змазвалі маслам ад каровы першага ацёлу, запляталі ў дзве касы або закручвалі ў куксу, на галаву клалі тры пасмачкі лёну і адзявалі чапец, які яна павінна насіць усё жыццё. Маладая двойчы зрывала чапец і кідала яго пад печ (у парог), а хто-небудзь з прысутных паднімаў і падаваў завівальніцы, якая за трэцім разам адзявала яго маладой. Зверху ўсё закручвалі белай наміткай. Завіўшы маладую, завівальніцы скакалі на лавах, пляскалі ў далоні, спявалі песні пераважна эратычнага зместу. Побач з завітай маладой садзілі яе дружку і абедзвюх пакрывалі куском палатна. Пасля гэтага запрашалі ў хату маладога, які павінен быў адгадаць, каторая з іх яго нявеста, зняць з яе пакрывала і пацалаваць, а завівальніцам заплаціць. *Л. А. Малаш.*

**«ЗАВІВА́ННЕ БАРАДЫ́»,** старадаўні ўсходнеславянскі абрад, які спраўлялі ў канцы жніва. Жнеі пакідалі некалькі няжатых каласоў, выполвалі ў гэтым месцы траву, клалі туды кавалачак хлеба з соллю, надломлівалі няжатыя сцяблiны, скручвалі іх з хлебам і прыціскалі да зямлі. Паводле павер'я, у жытнёвым полі жылі зерневыя духі, якія нібыта давалі жыццё сцяблінам, напаўнялі каласы зернем. Пасля жніва яны, у т. л. і *жыцень*, быццам бы аставаліся зімаваць у няжатых каласках.

У далёкім мінулым зерневага духа ўяўлялі ў вобразе казла, таму няжатыя сцяблiны называлі «барадой казла» (адсюль і назва абраду). Лічылася, што сіла, якая асталася ў «барадзе», перадасца зямлі і забяспечыць добры ўраджай у наступным годзе. Абрад суправаджаўся прымаўкамі і дажынкавымі песнямі, якія вызначаліся радасным, мажорным гучаннем. *М. Ф. Піліпенка.*

**«ЗАВІВА́ННЕ ВЯНКО́Ў»,** карагод. Узнік на аснове веснавога траецкага звычаю (пляценне вянкоў, «завіванне» бярозак, абрад куста). У карагодзе, апісаным сав. балетмайстрам К. Галяйзоўскім, у харэаграфічнай абагульненай форме паказваўся працэс ткацтва. Асобныя фігуры «З. в.» называліся таксама, як этапы работы («навіваць», «спаваць», «надзяваць», «ткаць»). Выконваўся дзяўчатамі ў суправаджэнні песні. *Ю. М. Чурко.*

**«ЗАВІРУ́ХА»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Па характару блізкі да *«Мяцеліцы»*. Выконваўся часцей за ўсё ў хуткім тэмпе і імітаваў то завірушку, то буйную мяцеліцу. Пары танцораў, калі бегалі адна за адной простым лёгкім крокам, мянялі напрамак і закручваліся ў розныя бакі. На Гомельшчыне «З.» танцавалі ў час провадаў зімы. Сцэнічны варыянт танца пад назвай «Віхор» створаны С. Грабеншчыкавым. *Ю. М. Чурко.*

**ЗАВО́З,** 1) збожжа, прывезенае ў млын для памолу. 2) Перамяшчэнне грузавога судна пры дапамозе завознага якара (гл. ў арт. *Бурлацтва*).

**ЗАВО́РВАННЕ,** п е р ш а я б а р а з н а, традыцыйны земляробчы абрад пачатку веснавых палявых работ. Лакальныя назвы аральба, запашка. Прыходзілася на канец красавіка — пачатак мая і прымяркоўвалася да нар. календара (у залежнасці ад шматлікіх феналагічных прыкмет — цвіцення пэўных раслін, прылёту з выраю птушак, стану глебы, надвор'я і інш.). Першы выхад у поле быў святам і суправаджаўся комплексам сімвалічна значымых абрадавых дзеянняў, звычаяў, павер'яў. Араты ўставаў на золку, надзяваў чыстую кашулю і, акрапіўшы сваіх валоў ці коней крынічнай вадою, адпраўляўся з сахою ў поле. Браў з сабою рытуальны хлеб і ваду, нярэдка соль і

яйкі. Вада і хлеб у слав. абраднасці лічыліся абярэгамі: паводле павер'яў, яны аберагалі ад нежаданых сустрэч і дурнога вока і нібыта перадавалі ўзноўленым палеткам сваю жыццёвую сілу. У дзень З. селянін араў пядоўга. Прайшоўшы 2—4 баразны, вяртаўся дамоў, дзе яго чакаў святочна накрыты стол. У той дзень гаспадыня пякла абрадавае пячэнне ў форме земляробчых прылад (раздвоенай сахі, бараны, сярпа і інш.). Нягледзячы на адзіную семантыку і сімволіку абраду З., яго абрадавыя элементы мелі асаблівасці ў розных рэгіёнах. У Зах. Палессі араты адпраўляўся ў поле на захадзе сонца, браў з сабой загорнутыя ў чысты абрус (ці ручнік) хлеб, соль і т. зв. грамнічную свечку. Разаслаўшы на мяжы абрус, ён клаў на яго хлеб-соль, нізка кланяўся ніве і праходзіў першую баразну. На Усх. Палессі селянін адпраўляўся на З. раніцою, браў з сабою, апрача хлеба і солі, велікодныя вараныя яйкі і мяса. Косці ад мяса



Зажынкі ў калгасе «Зара» Кобрынскага раёна.

і шкарлупінне з яек ён закопваў на мяжы. Часам па краю ўзаранага поля рассявалі мак («Радзіся поле так густа, як мак»). У Паўн.-Усх. Беларусі абрад З. нярэдка суправаджаўся рытуальным качаннем на спіне каня курынага яйка («Будзь мой конь гладак і повін, як яйцо»). У многіх месцах З. папярэднічалі *провідкі*. Рацыянальная аснова З. захавалася да нашага часу і знайшла сваё месца ў сучаснай працоўнай абраднасці. *В. С. Цітоў.*

**ЗАГАВІНЫ,** апошні дзень перад постам, калі дазвалялася есці скаромнае.

**ЗАЖЫ́НКІ,** старадаўні земляробчы звычай, звязаны з пачаткам жніва. Яго абрадавы сэнс быў скіраваны на тое, каб забяспечыць добры збор ураджаю. У зажынкавых абрадах і звычаях адлюстравана пашана селяніна да хлеба, своеасаблівы яго культ. У абрадзе першага снапа («гаспадара») бачны элементы анімістычнага светапогляду, земляробчай магіі, заклінання. З. уласцівы рэгіянальныя асаблівасці. Звычайна іх спраўлялі ў суботу вечарам. Перад тым прыбіралі хату і двор, стол засцілалі белым абрусам, клалі бохан хлеба і ставілі соль. Зажынальніцкай выбіралася жанчына «лёгкая на руку», каб усё жніво прайшло спраўна. Часцей зажынала гаспадыня з дочкамі або нявесткамі, часам на ніву адпраўляліся адны дзяўчаты, бралі з сабою хлеб і свежы сыр. Зажынальніца віталася з нівай: «Добры дзень, ніўка, ядронае жыта!». Потым зжынала некалькі сцяблін, скручвала перавясла і падпяразвалася ім, а першы сноп жыта ставіла са словамі «Стаўлю сноп на сто коп, на тысячу мерак», клала пад яго хлеб і сыр. У першы выхад на ніву нажыналі невялікі сноп жыта, перавязвалі яго чырвонай стужкай, неслі дахаты і ставілі на покуці; зерне з яго пасля дамешвалі да насення. У дзень З. рыхтавалася святочная вячэра, у час якой сям'я з'ядала хлеб і сыр, прынесеныя з нівы. За сталом спявалі зажынкавыя песні, у якіх чулася скарга збажыны на тое, што ёй надакучыла «ў полі стаяці, коласам махаці», гучалі заклінальныя матывы на добры ўраджай. У некаторых вёсках спраўляюць калгасныя З. *А. С. Ліс.*

**«ЗА́ІНЬКА»,** карагод-гульня. Лакальныя назвы «Зайчык», «У садочку». Існуе некалькі варыянтаў. У сярэдзіне карагода танцуе «заінька», ён імкнецца выскачыць з кола («Праскачы, зайка, ў дзірачку//Ды выламі сабе да былiначку»), пры апошніх словах песні «заінька» хапае каго-небудзь і становіцца на яго месца (запіс Г. Цітовіча); «заінька» замест сябе выбірае каго-небудзь з круга («Заінька, выбірай,//Шэранькі, выбірай» — Астравецкі р-н); («Зайчык, зайчык, паскачы//На другога ўкажы» — Лельчыцкі р-н). Калі той, на каго пакажа «заінька», не зловіць яго, то сам застаецца ў ролі «заінькі». *А. Ю. Лозка.*

**«ЗАКАБЛУ́КА»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. У цэнтры круга імправізацыйна танцавалі салісты. Хлопец мог танцаваць уприсядкі. Выконвалася пад прыпеўку:

Гэй, гэй, закаблукі,
Пазабуду я ўсе мукі,
Патанцую ў лапатках...

Зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гомельскай вобл. Пра «З.» як пра танец, што бытаваў на Віцебшчыне, нагадваў П. В. Шэйн. Для яго выканання станавіліся пара за парай: спачатку хадзілі, потым круціліся, нібы ў вальсе, затым зноў хадзілі. *Ю. М. Чурко.*

**ЗАКВА́СКА,** кіслае цеста для заквашвання рошчыны для хлеба і бліноў. На З. ў дзежцы пакідаецца крыху цеста. Часам для гэтай мэты пяклі спецыяльную маленькую булачку, якая таксама называлася З. Вядома на ўсёй Беларусі.

**ЗАКЛАДНО́Е ТКА́ЦТВА,** адна са старажытных тэхнік народнага *ткацтва.* Было найб. пашырана ў Гомельскай, Віцебскай, Мінскай абл. Закладныя тканіны (заклады) ткалі ў 2 ці 4 ніты без якіх-небудзь дадатковых прыстасаванняў. З. т. упрыгожвалі ручнікі, падолы кашуль, фартухоў, ткалі льнянымі і баваўнянымі ніткамі. Кожны элемент узора і ўчасткі фону закладвалі ўручную асобнымі ніцямі (вытканы ўзор быў аднолькавы з двух бакоў). Пры гэтым атрымлівалася тканіна рыпсавага (радзей палатнянага) перапляцення часам з характэрнымі зазорамі на вертыкальных абрысах малюнка: ніці ўтку рознага колеру не злучаліся паміж сабой, а заварочваліся на суседніх ніцях асновы. Асаблівасць тэхнікі выканання вызначыла прастату арнаменту са ступеньчатым контурам — ромбы, квадраты, прамавугольнікі, трохвугольнікі, крыжы і інш. Узорныя кампазіцыі ручнікоў звычайна завяршаліся арнаментальнымі палосамі, выкананымі палатняным або рыпсавым перапляценнем. Для бел. З. т. характэрна традыцыйнае спалучэнне белага і чырвонага, часам з дабаўленнем чорнага колераў. *М. М. Віннікава.*



Тэхніка выканання **закладнога ткацтва.**

**ЗАКО́Т,** архаічная канструкцыя страхі сялянскай хаты і гаспадарчых пабудоў. Бярвёны тарцовых сцен (у некаторых мясцовасцях наз. лемягі) вышэй *ачэпу* паступова ўкарочваліся, шчыт набываў выгляд ступеньчатага трохвугольніка. На выступах мацаваліся *сволакі,* якія служылі асновай страхі. На іх з дапамогай *какошын* клалі пакрыццё з дошак; саламянае і гонтавае пакрыццё патрабавала дадатковых лат. Форма страхі двухсхільная, на Палессі ў гумнах цэнтрычнай кампазіцыі сустракалася шатровая. Вядома некалькі канструкцыйных вырашэнняў З. Суцэльны З. утвараўся, калі кожнаму бервяну шчыта адпавядаў сволак, разрэджаны — колькасць сволакаў на схілах страхі змяншалася да 1—3 (акрамя канькова сволака),

паніжаны — заўсёды разрэджаны і складаецца з 3—5 сволакаў, урубленых па дузе ў сярэдзіну шчыта. На Пн і У Беларусі, дзе паніжаны З. найб. пашыраны, будаўнікі маглі ўзмацняць яго мастацкую выразнасць, дзеля чаго бярвёны для кожнага чарговага вянка мелі меншы дыяметр, што зрокава павялічвала памеры будынка. Адначасова падаўжаліся *кансолі* сволакаў, узбагачаючы сілуэт будынка і ствараючы надзейную ахову тарцовых сцен ад дажджу. Сустракаецца З. у хатах (Паазер'е, Падняпроўе, Усх. Палессе), клецях (па ўсёй Беларусі, акрамя Пд Палесся), зрэдку ў гумнах (Паазер'е, Падняпроўе, Усх. Палессе), пунях (Падняпроўе). Звычайна З. рабіўся з




Канструкцыі страхі **закотам:** 1 — суцэльны закот; 2 — разрэджаны закот; 3 — паніжаны закот.

бярвення, толькі ў клецях Панямоння і на З Паазер'я выкарыстоўвалі брусы. *С. А. Сергачоў.*

**ЗАКО́Т**, загарода з ламачча і каменя, плякень або частаколавы плот. З. будавалі вясной у ручаях і пратоках, каб затрымаць ход рыбы, якая вярталася са спадам вады з залітых лугоў, заток, азёр. Калі агароджаны вадаём мялеў, рыбу вылаўлівалі невадамі, брэднямі, крыгамі, падсакамі і інш. снасцямі. З. былі пашыраны на Беларусі са стараж. часоў. *І. М. Браім.*

**ЗАКО́ЦВІНА**, бервяно ці брус, пакладзены на бэлькі з унутранага або знешняга боку падоўжных сцен зруба для апоры і замацавання ніжняй часткі *крокваў* страхі. Характэрны элемент нар. дойлідства. Выкарыстоўваецца часцей у двухсхільных стрэхах. У нар. будаўніцтве Паазер'я, Падняпроўя З. размяшчаліся з унутр. боку падоўжных процілеглых сцен зруба, а на Палессі — пераважна на канцах бэлек са знешняга боку. Канцы З., асабліва вынесеных за плоскасць тарцовых сцен з боку фасада, як і кансолі, часта аздабляюцца разьбой. *У. С. Гуркоў.*

**ЗАКРА́СА**, заправа з нутранога свінога тлушчу — *здору;* тое, што і *затаўка.*

**ЗАКРЫ́ЛІНЫ**, дошкі, якія закрываюць тарцы двухсхільнай страхі, радзей страхі «з прычолкам», у традыцыйнай сялянскай хаце; тое, што і *ветраніцы.*

**ЗАЛАТНІ́К**, мера масы ў Стараж. Русі і Вялікім кн. Літоўскім. Быў роўны $^1/_{96}$ (напачатку $^1/_{72}$) часткі *фунта.* У сістэме мер Стараж. Русі З. = 4,266 г, Вялікага кн. Літоўскага — каля 3,9 г.

**ЗАЛАТО́Е ВЯСЕ́ЛЛЕ**, сямейная урачыстасць з нагоды 50-годдзя сумеснага жыцця ў шлюбе. З. в. здаўна бытавала сярод часткі каталіцкага насельніцтва, паўсюдна адзначаецца з 1970-х г. Уключае афіцыйную частку — урачыстую рэгістрацыю залатога шлюбу, якая праводзіцца ў Дамах, Палацах культуры, клубах, загсах, сельскіх, пасялковых Саветах нар. дэпутатаў, і неафіцыйную — сямейнае святочнае застолле. Святочная зала ўпрыгожваецца гербамі СССР і БССР, плакатамі, кветкамі, на відным месцы — два злучаныя пярсцёнкі як сімвал вернасці ў каханні і жыцці. У вызначаны час юбіляры разам з дзецьмі, унукамі, праўнукамі прыбываюць у святочную залу. Іх сустракаюць дзяўчаты ў нац. бел. адзенні, уручаюць хлеб-соль. Прадстаўнік органаў загса ці дэпутат сельскага, пасялковага Савета віншуе юбіляраў. Іх імёны заносяцца ў Ганаровую кнігу, ім уручаецца юбілейнае пасведчанне аб шлюбе, памятны медаль. Па жаданню муж і жонка могуць абмяняцца залатымі пярсцёнкамі, якія ім звычайна падносяць унукі. У зале гучаць любімыя мелодыі юбіляраў, музыка іх маладосці. Прадстаўнікі грамадскасці або працоўных калектываў расказваюць прысутным аб пройдзеным юбілярамі шляху, віншуюць іх, уручаюць кветкі і сувеніры. У шэрагу месц рэспублікі ў гэты дзень праходзіць і ўрачыстая рэгістрацыя маладой пары, для якой юбіляры служаць прыкладам. У гэтым праяўляецца і пераемнасць пакаленняў. Святкаванне заканчваецца фатаграфаваннем. Святочнае застолле наладжваецца дома або ў кафэ, рэстаране з удзелам і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый. Прыкладна гэтак адзначаюцца і сярэбраныя вяселлі з нагоды 25-годдзя сумеснага жыцця. У побыце гарадскіх жыхароў сустракаюцца святкаванні інш. сямейных юбілеяў — года, пяці, дзесяці, пятнаццаці, дваццаці год сумеснага жыцця. Гэтыя юбілеі носяць розныя назвы, маюць свае асаблівасці, атрыбуты і сімвалы. *Т. І. Кухаронак.*

**ЗАЛЁЗЫ**, металічная самалоўная пастка ўшчамляльнага дзеяння на драпежных і пушных звяроў (мядзведзяў, ваўкоў, лісоў, выдраў, куніц, зайцоў, гарнастаяў, тхароў, андатраў, ласак). У некаторых мясцовасцях называлася жалезы. У канцы 18 — пач. 19 ст. былі пашыраны дзве мадэлі: «лебядзіная шыйка» і З. з драўляным донцам (папярэднік пазнейшай націскной талерачкі). Сучасныя З. складаюцца са станіны, крыжавіны, дугі, пласцістай спружыны, рычага насцярожвання (настройкі), талерачкі, язычка. У залежнасці ад таго, на якога звера З., яе выраблялі розных памераў (на мядзведзяў, ваўкоў і выдраў — з двума спружынамі і зубчастымі дугамі). Для лоўлі вавёрак рабілі т. зв. драўляныя З., якія прымацоўвалі да ствала ці сука дрэва з дапамогай вострага шыпа. Каб звер не ўчуяў паху З., іх кіпяцяць у шчолачным растворы, запарваюць у драўлянай бочачцы з хваёвымі галінкамі і ляснымі зёлкамі і сушаць воддаль ад жылля; захоўваюць у чыстым палатняным мяшку ў нежылым памяшканні. З. настаўляюць «на след», «пад след» або з прынадай. *С. Ф. Цярохін.*

**ЗАЛО́БАК**, форма страхі каркаснай канструкцыі. Ствараецца за кошт таго, што франтон тарцовай сцяны ўсечаны зверху невялікім схілам. Страха з З., у параўнанні з двухсхільнай, павялічвала супраціўленне саламянага пакрыцця напору ветру. Найбольш пашырана на Панямонні, у Зах. Паазер'і (хаты, гумны, клеці).

**ЗАЛО́М**, пук зблытаных, заламаных ці завязаных вузлом жытніх сцяблоў на ніве, травы на сенажаці, які прымхлівыя людзі лічылі закляццем «ліхадзея» — знахара, чараўніка, злога чалавека. Лакальныя назвы завітка, закрутка. З. нібыта рабіў «ліхадзей» голым, абыходзіў яго тры разы, клаўся на зямлю і качаўся кулём, раскопваў рукамі ямку і засыпаў у ёй вугаль, соль і інш. Лічылася, што калі З. сажнуць ці яго з'есць карова, гэта накліча бяду на гаспадара, яго сям'ю або жывёлу.

З. асцярожна абжыналі і прасілі знахара ці папа за пэўную плату адкруціць («адрабіць») яго. Існавала некалькі магічных спосабаў і замоў супраць З. Напр., знахары голымі падпаўзалі да З., шапталі спец. замовы, вырывалі і клалі яго пад гнілую калоду або паміж дрэў, тапілі ў рацэ і г. д., а часцей за ўсё вырывалі з карэннем і спальвалі. Пасля гэтага няшчасце быццам бы «пераходзіла» на «ліхадзея», які таксама мог звярнуцца за дапамогай да чараўніка. Адзін са спосабаў абясшкоджання З. апісаны ў апавяданні «Заламка» ў кнізе А. К. Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў» (Спб., 1911).
*А. Ю. Лозка.*



Страха з **залобкам.** Вёска Камянчане Іўеўскага раёна.



**Залезы** «лебядзіная шыйка».

Залезы з донцам. 19 ст.



Сучасныя талерачныя **залезы.**

**ЗАЛО́ЎКА,** мужава сястра. Лакальная назва залвіца.

**ЗАМЁТ,** тып агароджы сялянскага двара. У пазы шул, укапаных у зямлю, гарызантальна закладвалі ачэсаныя па канцах бярвёны, дылі. Вышыня З. дасягала 2 і больш метраў. Калі З. рабіўся як частка вяночнага двара, ён мог мець невял. двухсхільную страху. Найб. пашыраны быў на Падняпроўі, у цэнтр. і ўсх. раёнах Бел. Палесся, на Міншчыне.
*С. А. Сергачоў.*

**ЗАМО́К,** спосаб злучэння двух драўляных канструкцыйных элементаў пры іх падаўжэнні або ў *вуглах* зруба. Універсальны ў адрозненне ад больш простага тыпу злучэння — накладкі; засцерагае ад многіх відаў дэфармацый (выгібу, зруху, расцяжэнняў і г. д.). На Беларусі выкарыстоўваюцца З. просты і касы. Іх асн. асаблівасці: нахіленыя плоскасці элементаў у месцы стыку, наяўнасць шыпоў у адным элеменце і адпаведных гнёзд для іх — у другім. Своеасаблівы тып. З., які надае вуглу дэкаратыўную выразнасць, вядомы на Зах. Палессі (т. зв. вугал у каню). Пры падаўжэнні гарызантальных элементаў (бярвёны сцен, падваліны) З. дазваляе павялічваць памеры зруба, выкарыстоўваць карацейшыя элементы, што робіць будаўніцтва больш танным. Выкарыстоўваліся пры падаўжэнні т. зв. накладныя З.— прамы ці касы, умацаваныя тэблямі і клінамі. Тыпы З., выпрацаваныя ў нар. будаўніцтве, атрымалі далейшае развіццё ў канструкцыях манументальных збудаванняў.
*С. А. Сергачоў.*

**ЗАМО́К,** прылада для замыкання дзвярэй, шафаў, скрыняў, куфэркаў і інш. Вядомы з глыбокай старажытнасці. Бываюць здымныя (вісячыя) і ўмацаваныя (накладныя, урэзныя). Сакрэт З. забяспечваецца фасонным профілем замковай адтуліны ў корпусе ці наборам рознафігурных рухомых пласцінак, якім адпавядае бародка ключа. Металічныя З. кавальскай работы вядомы з 10 ст. (магчыма, раней ужываліся драўляныя З.). Пашыраны былі вісячыя спружынныя З. розных тыпаў і форм: цыліндрычныя, канічныя, сэрцападобныя, трохвугольныя, шлемападобныя і інш. З пашырэннем у 16—17 ст. манументальнага будаўніцтва ў шырокі ўжытак увайшлі ўнутраныя накладныя З., з адкрытым ці закрытым механізмам, умацаваныя на дзвярах. Закрытыя З. часта мелі памастацку аздобленую форму корпуса, часам дэкарыраваную чаканкай, насечкай, гравіраваннем. Асаблівай складанасцю і дасканаласцю формы вызначаліся З. ў скрынях і куфэрках для захавання цэхавай маёмасці. Вырабам З. займаліся кавалі, з 15—16 ст.— слесары, якія пазней утварылі асобную спецыяльнасць — замочнікі (майстры па вырабу вісячых З.— клудачнікі). У нар. побыце 19—1-й пал. 20 ст. бытавалі кавальскія З., механізм якіх манціраваўся ў трубцы і прыводзіўся ў дзеянне завінчваннем і вывінчваннем трубчастага ключа з унутранай вінтавой нарэзкай. Ужываўся таксама накладны З., што ўяўляў сабой жалезны рубчасты брус (штаба, завала), які пасоўваўся

ўлева і ўправа ў дзвюх скобках, убітых з унутранага боку ў дзвярны вушак. Ключом служыў металічны стрыжань з адкідным язычком, які прасоўвалі праз дзірку ў вушаку і паварочвалі ўправа-ўлева, чапляючы язычком за выступы бруса. У наш час З. кавальскай работы амаль выцеснены прамысловымі вырабамі розных сістэм. *Я. М. Сахута.*

**ЗАПАРО́ЖЦЫ**, староннія гледачы, якія ў час *вяселля* не сядзелі за бяседным сталом, а сталі за парогам і ўдзельнічалі толькі ў забавах і танцах. У час падзелу каравая маладых З. клікалі ў хату, куды яны ўваходзілі з памялом і лапатай, забіралі сваю частку каравая, плацілі грошы і выказвалі ў адрас маладых жартоўныя, часам не зусім прыстойныя прыгаворы («Даруюць хлопцы-запарожцы тыя пчолы, што сядзяць у вуллі, гудуць, як дурні, кашалямі мёд носяць, на галлі чапляюць» і інш.). З. называлі таксама хлопчыкаў, якія ў час падзелу каравая стаялі каля стала і імітавалі галасы тых жывёл, якіх называлі сваякі ў час дарэння маладых. За гэта З. атрымлівалі шышкі, гускі і іншае дробнае печыва, прыгатаванае з каравайнага цеста. *Л. А. Малаш.*




Замкі: просты (1) і касы (2) у вуглавых злучэннях; пакладныя прамы (3) і касы (4) пры падаўжэнні элементаў.

**«ЗАПИСКИ СЕ́ВЕРО-ЗАПАДНОГО ОТДЕ́ЛА РУ́ССКОГО ГЕОГРАФИ́ЧЕСКОГО О́БЩЕСТВА»**, часопіс, орган *Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаграфічнага таварыства*. Выдаваўся ў Вільні на рус. мове ў 1910—14. Выйшлі кнігі 1—4, рэдактар Дз. І. Даўгяла. Асвятляў дзейнасць аддзела, змяшчаў матэрыялы па этнаграфіі, фальклору, археалогіі, геалогіі, гісторыі, геаграфіі і інш., друкаваў рэцэнзіі і агляды л-ры. Найб. значныя публікацыі: «Напаўпрыказкі і напаўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі» М. Я. Нікіфароўскага (кн. 1—4); «Сялянскае вяселле ў Віцебскай Беларусі» В. В. Іванова (кн. 3); «Па Дрыгавіцкай вобласці летам 1911 г.» (кн. 3) і «Паездка па Палессі летам 1912 г.» (кн. 4) І. А. Сербава; «Жніўныя песні ў Барысаўскім павеце (Мінскай губерні)» М. Я. Белацаркаўца (кн. 3); «Сялянскае вяселле ў Паўднёвым Палессі» Б. Сцепанца (Ф. А. Кудрынскага, кн. 1); «Да гісторыі Паўночна-Заходняга аддзела» Даўгялы (кн. 1—2); «Старажытнарускія прыказкі» (кн. 1, 3); «Па Гродзенскім Палессі» (кн. 2), «Знешні побыт беларуса» (кн. 2), «Альбом мастака Д. М. Струкава як вынік экспедыцыі па Паўночна-Заходняму краю ў 1864 г.» (кн. 3) Е. Р. Раманава. *Г. А. Пятроўская.*

**ЗАПО́ІНЫ**, адзін з падрыхтоўчых этапаў *вяселля*, на якім нявеста і яе бацькі ў прысутнасці самай блізкай радні афіцыйна давалі згоду на шлюб. Лакальныя назвы малыя заручыны, малая гарэлка, барышы. Адбываліся пасля *сватання*. На З. прыязджалі бацька, хросны бацька, дзядзька жаніха, у некаторых мясцовасцях цётка або хросная маці. Даўней З. адбываліся без жаніха, у больш позні час яго прысутнасць стала абавязковай. На З. ездзілі вечарам, ціха, без шархуноў. Згодна з павер'ем, каб З. былі паспяховымі, перад выездам да нявесты маці жаніха звязвала разам вілкі, качэргі поясам, а сваты, увайшоўшы ў хату да нявесты, наступалі на качаргу, дакраналіся да печы, глядзелі ў яе, не пераходзілі за першую бэльку, не атрымаўшы папярэдняй згоды на З. Нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць, сваты не адразу заходзілі ў хату, а стукалі ў акно, выдаючы сябе за падарожных, паляўнічых, купцоў, якія заблудзіліся. Увайшоўшы ў хату, яны гаварылі іншасказальна: прасілі прадаць або аддаць заблудную цялушку. Гаспадары рабілі выгляд, што іх не чакалі і не разумеюць, чаго яны прыехалі. Калі гаспадары адказвалі, што можа і знойдзецца цялушка, і запрашалі гасцей да стала, гэта азначала іх згоду. Нярэдка, увайшоўшы ў хату, сват гаварыў: «Я сват прысланы, каб быў стол засланы». У знак згоды маці або сама дзяўчына засцілала стол і ставіла чарку. Сват клаў на стол загорнуты ў ручнік бохан хлеба, спечаны часам адмыслова маці жаніха, і бутэльку гарэлкі, заткнутую саломай. Бацькі дзяўчыны падавалі закуску. Абавязковай стравай была яешня і сыр. Таму часам гаварылі: «запілі» дзяўчыну або «заелі яешняй (сырам)». Дзяўчына запрашала на З. самых блізкіх сваякоў і сябровак. Калі ўсе збіраліся, яе пачыналі запіваць. Першую чарку сват піў, звяртаючыся да бацькоў нявесты або да яе самой. Перадаючы нявесце чарку, клаў туды манету. Дзяўчына выпівала гарэлку або, прыгубіўшы, выливала яе ў свой фартух, а манету забірала. У час З. нявеста нярэдка абдорвала сватоў ручнікамі, наміткамі, хусткамі, перавязаўшыся якімі, яны ішлі дадому. Калі яна давала згоду на шлюб, маці забірала прывезены сватамі хлеб і ўзамен давала ім свой, а ў бутэльку, дзе была гарэлка, насыпала жыта, абмотвала яе ручніком і завязвала поясам, што таксама сімвалізавала згоду. Калі З. праходзілі паспяхова, жаніх з бацькам нявесты або са сваім бацькам ехаў у царкву «даваць на запаведзі» (аглашэнне). Калі ж пасля З. дзяўчына раздумвала ісці замуж, яна павінна была заплаціць за прывезеную хлопцам гарэлку, а жаніх і яго сваякі — вярнуць падарункі, атрыманыя ад нявесты, і абавязкова хлеб і жыта, бо яе лёс прыраўноўваўся да жыта. Адсюль прыказка: «Не аддаў жыта — не будзе жыцця». У наш час традыцыйныя З. фактычна не захаваліся. *Л. А. Малаш.*

**ЗАПРО́СІНЫ**, традыцыйны рытуал запрашэння на *вяселле*, які суправаджаўся пэўнымі прыгаворамі і сімвалічнымі дзеяннямі. Характэрныя рысы З. — шматразовасць іх выканання, абавязковы ўдзел у іх разам з маладой старшай *дружкі* (бальшакі) або разам з маладым — *дружка́* (чашнік), бацькоў маладых (у першую чаргу маці), а таксама малых хлопчыкаў (прасатых, пазыватых). З. з боку маладой пачыналіся з *заручын*, а ў маладога — з *суборнай суботы*. Пасля заручын бацькі маладой (маладога) запрашалі сваякоў і блізкіх знаёмых, якія прымалі непасрэдны ўдзел у вяселлі (укладальнікі). Да сваякоў, якія жылі ў суседніх вёсках, бацькі маглі не ехаць, а праз каго-небудзь пасылалі ім хлеб, які сімвалізаваў З. На суборную суботу маладая з сяброўкай запрашала незамужніх дзяўчат, а малады з дружкам — нежанатых хлопцаў. Найбольш урачыстыя З. адбываліся пачынаючы з чацвярга, напярэдадні вяселля і да нядзелі раніцай, калі маладая ў святочным уборы з хлебам, завернутым у хустку і з прывязаным да рукі ручніком або хусткай, за якую яе вяла таксама святочна прыбраная дружка, ішла запрашаць

аднавяскоўцаў, а часам і некаторых жыхароў навакольных вёсак. Увайшоўшы ў хату, маладая з дружкай тройчы кланяліся найперш покуці, затым дзяжы, нарэшце гаспадару, гаспадыні, усім прысутным (старэйшым у ногі, маладзейшым — у пояс), цалавалі старэйшых у руку, а маладзейшых у твар. Першай гэта рабіла нявеста, прыгаворваючы: «Выбачце, даруйце, можа вам калі-кольвек што кепскае зрабіла або сказала або вашай старасці не пашанавала — будзьце так добрыя, прабачце мне ўсенька». Прысутныя таксама адказвалі спецыяльным прыгаворам, у якім яе прабачалі і жадалі ёй усяго найлепшага. Затым нявеста сціпла прыгаворвала: «Прашу міласці ка мне на вяселле, на хлеб-соль, на каравай і на ўсё, што бог пашле». Атрымаўшы адказ: «Няхай гасподзь памагае», маладая яшчэ двойчы паўтарала свой паклон у знак удзячнасці за пажаданні (старэйшым за сябе яна рабіла тры зямныя паклоны) і клала на стол прынесены хлеб, які гаспадары замянялі сваім (выходзячы, маладая забірала свой хлеб або заменены). Нярэдка ў доме маладой пяклі шмат маленькіх буханачак, якія маладая пакідала ў кожнай хаце. Пры ўваходзе ў хату нявеста дзверы не зачыняла, а на выхадзе цягнула ручнікі па зямлі, што сімвалізавала хуткі выхад дачок гаспадара замуж (выходзячы з хаты, нявеста таксама пакідала дзверы адчыненымі, каб яе сяброўка хутка выйшла замуж). З такім цырымаціялам нявеста абходзіла ўсе хаты, незалежна ад асабістых адносін іх гаспадароў з бацькамі маладой, нават калі яны былі ў сварцы. Кланялася і запрашала адпаведным чынам на вяселле нявеста і ўсіх сустрэчных незалежна ад іх сацыяльнага становішча, узросту і веравызнання. У час З. нявесту надзялялі ручайкамі лёну, воўнай, маткамі нітак, палатном і інш. З. адбываліся перад кожным этапам вяселля — перад заручынамі, суборнай суботай, пасадам, выпраўленнем да шлюбу, да маладога, перад завіваннем і г. д., а ў найбольш складаных, такіх, як каравай, З. папярэднічалі кожнаму з этапаў яго прыгатавання. Спецыяльна запрашалі рашчыніць, замясіць, у печ пасадзіць, дастаць з печы і падзяліць каравай. Запрашаць гасцей на каравай звычайна ішла маці нявесты, ужываючы адпаведныя словы запрашэння і кланяючыся ўсім разам. У якасці паўторных запрашальнікаў часта выступалі хлопчыкі-прасатыя, якія, не заходзячы ў хату, выкрыквалі пад акном запрашэнні ад імя маладых і іх бацькоў. Паступова цырымонія З. спрасцілася, зліўшыся з перапрасінамі. *Л. А. Малаш.*

**ЗАПРЭ́ЖКА**, спосаб злучэння рыштункам гужавога транспартнага сродку або земляробчай прылады з цяглавай сілай. Адпавядае сістэмам (тыпам) *вупражы*. Паводле канструкцыйных асаблівасцей вылучаюць тыпы, або варыянты, З.: конную і валовую; адзінарную, парную і мнагаконную (многаваловую) у адзін рад і цугам; хамутова-аглабельную (хамутова-аглабельна-дужную), хамутова-пастронкавую, ярэмна-пастронкавую, якія ў сваю чаргу маюць прыватныя асаблівасці. *В. С. Цітоў.*



**Замкі.** 17—19 ст.

**ЗА́ПУСКІ**, назва ў заходніх раёнах апошняга тыдня *мясаеда* перад вялікім постам. Лакальная назва запусты. Адпавядае ўсх.-слав. *масленіцы*. У гэты час наладжваліся катанні з гары і на конях, скокі, гульні, драматызаваныя сцэнкі з пераапрананнем. У паўн.-зах. раёнах З. называюць апошнюю нядзелю мясаеда, якая таксама адзначалася святочна. У палякаў З.— час ад свята «трох каралёў» (7 студз.) да попельца («попельнай серады»), асн. міфалаг. персанаж — Запуст, які заходзіць у хату і абавязкова пасыпае ўсіх попелам (адсюль назва «попельная серада»). Па сутнасці, запуст атаясамлены з зімой, смерцю. Яго праводзілі (забівалі) так, як праводзілі масленіцу, каб зноў адрадзіліся пладаносныя сілы прыроды ў новай, найвышэйшай форме. *А. М. Райкова.*

**ЗАРУБІНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён, якія жылі ў Сярэднім і Верхнім Падняпроўі. Храналагічна падзяляецца на ранні этап (сярэдзіна 3 ст. да н. э.— пач. 2 ст. н. э.), якому характэрны *гарадзішчы*, паселішчы і бескурганныя могільнікі, і позні (2—5 ст. н. э.) з паселішчамі і бескурганнымі могільнікамі. Назва ад могільніка каля в. Зарубінцы на Кіеўшчыне, адкрытага ў 1899. Плямёны З. к. займалі тэрыторыю сучасных Гомельскай, Магілёўскай, большую частку Брэсцкай і Пд Мінскай абл., Пн Украіны, частку Смаленскай і Бранскай абласцей. Знаходзіліся на стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу і складвання тэрытарыяльнай *абшчыны*, мяркуюць, што існавала патрыярхальнае рабства. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, здабывала і апрацоўвала жалеза. Будавала наземныя слупавыя жытлы прамавугольнай формы і паўзямлянкі, вырабляла і выкарыстоўвала жалезныя наканечнікі коп'яў, клінападобныя сякеры (кельты), нажы, сярпы, ляпны і гліняны посуд; упрыгожваннямі служылі бранзалеты, шкляныя пацеркі, розныя



Кераміка **зарубінецкай культуры.** Вёска Чаплін Лоеўскага раёна.

фібулы і інш.; падтрымлівала сувязі са скіфска-сармацкімі і кельцкімі плямёнамі, гарадамі Паўн. Прычарнамор'я, з плямёнамі на тэр. Польшчы і Прыбалтыкі, пазней з плямёнамі чарняхоўскай культуры. Пахавальны абрад — трупаспаленне (вельмі рэдка трупапалажэнне), у магілах трапляюцца прылады працы, кераміка, упрыгожанні. Большасць даследчыкаў лічыць З. к. старажытнаславянскай. Найбольш даследаваны археалагічны комплекс Чаплін Лоеўскага р-на. *Л. Д. Побаль.*

**ЗАРУ́ЧЫНЫ**, з м о в і н ы, адзін з падрыхтоўчых этапаў *вяселля*, на якім у прысутнасці шырокага кола сваякоў канчаткова замацоўвалася згода на шлюб. У некаторых рэгіёнах З. называюць аглядзінамі запоінамі, вялікай гарэлкай. Адбываліся праз тыдзень пасля *запоін*. На З. ехалі часта днём, гучна,

з шархунамі, жаніх са сватамі перавязваліся ручнікамі, атрыманымі ў час запоін ад нявесты. На З. дамаўляліся пра ўсе дэталі вяселля (*пасаг*, час і парадак вяселля, колькасць гасцей і сватоў, падарункаў і г. д.). У некаторых мясцовасцях З. называлі першы дзень вяселля (благаслаўленне перад вянчаннем), у другіх—*суборную суботу*, часам З. ядналі з *аглядзінамі*. Некаторымі ры-



Засаўка.




Засека (план): 1 — уваход; 2 — пасынак; 3 — зава́лы; 4 — скрыня.

туаламі абрад З. паўтараў абрад запоін і першага дня вяселля (прыезд жаніха з гарэлкай, запрашэнне нявестай гасцей, перапіванне, абдорванне, *звядзенне* жаніха і нявесты, расплятанне касы нявесты, выкананне спецыяльных вясельных песень і г. д.). З. ўключалі наступныя асноўныя абрады: жаніх і нявеста пад хлебам або над міскай, у якую сват зліў яе і сваю гарэлку («ажаніў гарэлку»), падавалі адзін аднаму рукі і іх звязвалі ручніком, абменьваліся пярсцёнкамі і абрадавымі падарункамі; жаніх прывозіў спец. пачастунак для сябровак нявесты, які сімвалізаваў выкуп яе з дзявоцкай грамады; бацькі нявесты і жаніха падавалі адзін аднаму рукі, абменьваліся падарункамі і ўдзельнічалі ў сумесным пачастунку, што сімвалізавала замацаванне заключанага саюзу-дагавору; нявесце расплятала касу, якую яна не заплятала да самага пярэдадня вяселля. Маці або хросная маці нявесты (часам гэта рабіла сама нявеста) у знак згоды на шлюб павязвалі ўсіх сватоў жаніха ручнікамі ці хусткамі або шмат́кай, каваўкам палатна. З. заканчваліся выкананнем спецыяльных вясельных песень. Вяселле з гэтага часу абвяшчалася афіцыйна, жаніх і нявесту называлі малады і маладая (князь і княгіня, заручоны і заручоная). Адмова пасля З.— вялікая ганьба для жаніха, не рабіла яна гонару і нявесце, таму бывала вельмі рэдка. Вінаваты ў адмове аплачваў усе выдаткі. У наш час традыцыйныя З. фактычна не захаваліся.

*Л. А. Малаш.*

**ЗА́САЎКА**, прасцейшая канструкцыя для запору дзвярэй. Звычайна мацавалася на вушаку. Драўляная З.— брусок даўж. да 25 см, уздоўж якога пасярэдзіне рабілася прарэзь. Два тэблі з пашырэннямі на канцах забівалі праз гэтую прарэзь у вушакі. Паколькі адлегласць паміж тэблямі рабілі меншай, чым даўжыня прарэзі, З. магла соваціа ўпоперак вушака. Падаючыся ўбок, яна сваім канцом перашкаджала дзвярам адчыняцца. З. з металу ўстаўляліся ў каваныя прабоі, забітыя ў вушак.

*С. А. Сергачоў.*

**ЗАСЕ́КА**, стацыянарнае збудаванне для лоўлі буйных парнакапытных жывёл (пераважна зуброў). Называлі таксама двухсценак, сценка. Уяўляла шматкіламетровы паркан шульна-закідной ці слупавой канструкцыі, які апаясваў пэўную тэрыторыю лесу. У З. было некалькі свабодных уваходаў і пасынкаў (звужаных адгалінаванняў-закуткаў). Звяроў прываблівалі кормам ці заганялі нагонам. Калі яны траплялі ў З., уваходы перакрывалі клямкамі (цясовымі заваламі). У пошуках выхаду жывёла заходзіла ў пасынак, дзе яе трыножылі або заводзілі ў вялізную скрыню. З. лавілі жывёл для гадоўлі, перасялення ці продажу.

*С. Ф. Цярохін.*

**ЗАСЕ́ЎКІ**, традыцыйны земляробчы абрад пачатку адкрыцця сяўбы. Суправаджаліся комплексам старажытных звычаяў, павер'яў, рытуальных дзеянняў, якія адпавядалі той ці іншай стадыі аграрна-земляробчых працэсаў (гл. таксама *Заворванне*, *Зажынкі*, *Дажынкі*, *Провідкі*). Паводле *народнага календара* і яго разнастайных феналагічных прыкмет для сяўбы розных культур існавалі свае тэрміны. Важнейшымі перадумовамі былі адпаведны рэжым глебы і стан надвор'я, найбольш спрыяльнымі лічыліся цёплыя пахмурныя і бязветраныя дні. Рэальныя перадумовы ўвязвалі з сімволікай месячнага і тыднёвага календара. Поўны месяц асацыіраваўся з поўным коласам, найб. прыдатнымі для сяўбы лічылі аўторак і суботу, у некаторых мясцінах і пятніцу. У час сяўбы азімых пазбягалі «чарвівага» тыдня (15—22 жн. па с. ст.). У дзень сяўбы ў сялянскай хаце падтрымлівалі ўзорны парадак і чысціню; хата і ніва ва ўяўленнях усх. славян



Заслаўская кераміка 10—11 ст.

успрымаліся як двуадзіная іпастась, па аналогіі і пасевы на сялянскай ніве павінны быць чыстымі, без пустазелля. Той жа ідэі падпарадкаваны і рытуальны звычай старанна мыцца і адзявацца ў чыстае адзенне. У Падняпроўі пачынаць сяўбу даручалі бездакорным і чыстым хлапчукам-падлеткам. З. праводзілі збожжам з вянка, звітым мінулым летам з нагоды дажынак. Пасля З. селянін запрашаў памочнікаў, сваякоў, суседзяў да святочнага стала. Лічылася, чым больш шчодры і разнастайны пачастунак з нагоды З., тым больш багатым будзе ўраджай. На Пн сейбіт часам працаваў у полі з сякеркай за поясам, «каб хлеб урадзіўся такім, што яго прыйшлося б ссякаць». У Зах. Палессі існавала павер'е, што лён вырасце высокім, калі яго пасее самы высокі чалавек у вёсцы. Падобныя павер'і адрозніваліся лакальнай разнастайнасцю і выступалі больш як сю-

жэтная аснова абраду, які набліжаўся да тэатралізаванага відовішча. Традыцыйныя элементы З. часткова захаваліся да нашых дзён і знайшлі сваё месца ў сучаснай працоўнай абраднасці. *В. С. Цітоў.*

**ЗАСЛА́ЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, кухонны, сталовы і тарны посуд 10—18 ст., знойдзены пры археалагічных раскопках Заслаўя і Заслаўскага курганнага могільніка. У 10—14 ст. выраблялі пераважна гаршкі, якія выкарыстоўваліся для гатавання ежы, хавання прадуктаў, а таксама ў якасці пахавальных урн у абрадах трупаспалення. Міскі і гліняныя накрыўкі таго часу прадстаўлены адзінкавымі знаходкамі. Посуд выраблялі з грубай з дамешкам жарствы або з якаснай глінянай масы, абпальвалі пры тэмпературы 850—1050°, аздаблялі лінейным рыфленнем, адна- ці шматрадковымі хвалістымі лініямі або зігзагамі, касымі або прамымі насечкамі і інш. У 10 ст. арнаментавалі часцей усё тулава, пазней — частку ад шыйкі да сярэдзіны тулава або толькі «плечукі» пасудзіны (у некаторых дэкарыравалі толькі венчык). Уся З. к. выраблена на ганчарным крузе, толькі нязначная колькасць посуду 10 ст. вылеплена рукамі. У 15—18 ст. асартымент посуду значна пашырыўся. Выраблялі гаршкі, макатры, патэльні, міскі, талеркі, кубкі, чаркі, глякі, чайнікі і іншы посуд. Танкасценны сталовы посуд выраблялі на нажным ганчарным крузе з высакаякаснай глінянай масы. Унутраную паверхню большасці вырабаў пакрывалі палівай, знешнюю аздаблялі ангобам; некаторыя вырабы палівалі звонку і знутры. Дэкарыравалі пераважна верхнюю частку посуду лінейным або хвалістым арнаментамі, валікамі, зашчыпамі, прымянялі арнаменты-штампы; талеркі і часткова міскі распісвалі разнаколернымі палівамі, а ў канцы 17—18 ст. эмалямі. Некаторыя вырабы аздаблялі рэльефным кветкавым арнаментам. З 18 ст. пашырыўся выраб чорназадымленага кухоннага сталовага посуду. Арнамент на яго наносіўся лашчэннем, у некаторых вырабах глянцавалася ўся вонкавая паверхня. Для З. к. 16—18 ст. характэрны стандартызацыя і уніфікацыя некаторых форм посуду, блізкасць да *мінскай керамікі*. *Ю. А. Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКІ МУЗЕ́Й РАМЕ́СТВАЎ І НАРО́ДНЫХ ПРО́МЫСЛАЎ**. Адкрыты 5.4.1978 у г. п. Заслаўе Мінскага р-на як філіял *Дзяржаўнага музея Беларускай ССР*. Размяшчаецца ў будынку б. Спаса-Праабражэнскай царквы. Мае 2 выставачныя залы (пл. 346,5 м$^2$). Матэрыялы 1-й залы адлюстроўваюць узнікненне стараж. гарадоў на тэр. Беларусі. Дэманструюцца карта і вывы гербаў бел. гарадоў 15—18 ст. У экспазіцыі 2-й залы больш за 900 твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і нар. рамёстваў 10—20 ст. Сярод экспанатаў — жаночыя ўпрыгожанні 10—13 ст. з каляровых металаў, шкла, сердаліку (бранзалеты, пацеркі, падвескі, скроневыя кольцы і інш.), прадметы побыту з рогу і косці (разны ігольнік, шахматныя фігуры 12 ст., грабяні і тронкі нажоў, аздобленыя арнаментальнымі ўзорамі, 10—13 ст.), *заслаўская кераміка* (посуд і паліхромная кафля, 10—17 ст.), вырабы бел. злотнікаў (пацір 16 ст., напрастольны крыж 1625 з Навагрудка), узоры драўлянай скульптуры (фрагмент кампазіцыі «Тайная вячэра», 17 ст.), шкляны посуд (18—пач. 20 ст.), слуцкія паясы (18 ст.). У музеі прадстаўлены прылады працы, творы традыцыйных промыслаў і рамёстваў канца 19— пач. 20 ст.: узоры *гараднянскай керамікі, пагост-загарод-скай керамікі*, разнога драўлянага посуду (салонкі, талеркі, коўшыкі з ручкамі ў выглядзе галавы коніка, пеўня, качкі), вырабаў з саломкі (сявенькі, гарчыкі, корабы), берасцяных табакерак, *мотальскіх ручнікоў, неглюбскіх ручнікоў*, нар. касцюма з Брэстчыны і Гомельшчыны, найб. поўная на Беларусі калекцыя меднага посуду (браціна, глякі, кварты, гарцы, чайнікі і інш.). На тэр. музея штогод праводзяцца фальклорна-этнагр. святы, канцэрты нар., класічнай і харавой музыкі. *С. А. Мілючэнкаў.*



Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў. Экспазіцыйная зала «Развіццё рамёстваў і народных промыслаў на Беларусі».

**ЗАСТРО́ШАК**, 1) аднасхільная стрэшка, якая засцерагае тарцовую сцяну ад ападкаў. Генетычна звязаны са страхой з *прычолкам* пры пераходзе ад 4-схільнай страхі да 2-схільнай. 2) Месца пад навіслым краем страхі.

**ЗАСЦЕ́НАК**, тып сельскага паселішча на Беларусі. Узнік у выніку зямельнай рэформы 16 ст. Паводле «Уставы на валокі» 1557 уводзіўся трохпольны севазварот. Уся сялянская зямля дзялілася на 3 полі з дакладна вызначанымі межамі («сценкамі»). Пасля межавання аставаліся адрэзкі ворнай ці сенакоснай зямлі — засценкі. Яны звычайна знаходзіліся на краі поля і здаваліся ў арэнду дробнай шляхце (адсюль і назва — засцянковая шляхта). Малыя З. нярэдка адрозніваліся ад *хутароў* толькі сваім гіст.-эканам. паходжаннем і саслоўнай прыналежнасцю жыхароў; вялікія нагадвалі вёску (у 1927 у засценку Глядкі Старобінскага р-на Бабруйскай акругі было 22 двары, 125 жыхароў, 79,2 дзесяціны ворнай зямлі, 48,2 дзесяціны сенажаці і 42 дзесяціны выгану). У сав. час частка З. ссялена, частка развілася і перайменавана ў 1938 у вёскі. *У. С. Гуркоў.*

**ЗАТА́ЎКА**, з а к р а с а, заправа з нутранога свінога тлушчу — *здору*. Кавалак здору расціралі (таўклі) з часнаком, перцам і інш. прыправамі і запраўлялі ім (затоўквалі) капусту, боршч, булён, шчаўе, камы, мазалі на хлеб. З. была больш духмяная, чым сала. На Брэстчыне, у некаторых раёнах Магілёўшчыны З. рабілі са свежага нутранога тлушчу: здымалі плеўку са здору, перамешвалі яго з соллю, перцам, гарчыцай і інш., затым зноў закручвалі ў плеўку і так захоўвалі. Часам на З. расціралі ўжо прыгатаваны здор з салам (Палессе). У некаторых раёнах Палесся З. называюць свежы здор. *Г. Ф. Вештарт.*

**ЗАТО́Р**, бандарны інструмент для нарэзкі ў бандарных ці даўбёжных пасудзінах утор (пазоў, у якія ўстаўлялася днішча). У некаторых мясцовасцях пашыраны назвы ўторыч, закрой, прудавік. Знешне нагадваў 3—5-зубовую пілку з драўлянай ручкай, на якую быў насаджаны хамуток (для рэгулявання ўторнага паза). Форма З. мела лакальныя асаблівасці.

**ЗАХОДНЕРУСІ́ЗМ**, кірунак грамадска-палітычнай думкі, адна з форм этнічнай самасвядомасці на Беларусі ў 19—пач. 20 ст. Склаўся пасля 1830-х г. пад уплывам нацыянальнай палітыкі

царызму (насаджэнне рус. землеўладання і чыноўніцтва, адмена ў 1840 Статута Вял. кн. Літоўскага 1588, забарона ўжываць у дзярж. установах бел. мову, ліквідацыя ў 1839 Брэсцкай уніі 1596 і ўвядзенне афіцыйных тэрмінаў «Паўночна-Заходні край Расіі» і «заходнярусы»). Быў пашыраны сярод гарадскога насельніцтва (інтэлігенцыя, чыноўнікі, праваслаўнае духавенства і інш.), асабліва на У Беларусі. Канцэпцыя З. грунтуецца на сцвярджэнні, што беларусы — не самастойны этнас, а адгалінаванне рускага народа. Прадстаўнікі кансерватыўнага вялікадзяржаўна-шавіністычнага кірунку З. (К. А. Гаворскі) лічылі этнічныя асаблівасці беларусаў вынікам польска-каталіцкай экспансіі і прапаноўвалі знішчыць іх для аднаўлення «спрадвечна рускага характару краю». Прыхільнікі ліберальна-памяркоўнага З. (М. В. Каяловіч, А. Р. Пшчолка) прызнавалі рэальнасць існавання Беларусі як этнагр. рэгіёна, але адхілялі ідэі стварэння нацыянальнай культуры і фарміравання нацыянальнай супольнасці як справу бесперспектыўную і палітычна шкодную. Правадніком ідэй З. былі час. «Вестник Западной России» (1864—71, Вільня, да 1869 рэдактар-выдавец Гаворскі), газ. «День» (1861—65, Масква). Зрабілі ўплыў і на інш. выданні (газ. «Минское слово», 1906—12, «Минское русское слово», 1912—13 і інш.). Праца Каяловіча «Лекцыі па гісторыі Заходняй Расіі» (1864) уключана ў праграму настаўніцкіх семінарый. У 1905—08 прыхільнікі З. заснавалі т-вы «Селянін», «Рускае ўскраіннае таварыства», «Беларускае таварыства», дзейнасць якіх была накіравана супраць бел. нацыянальна-вызваленчага руху. Яны мелі свае друкаваныя органы — час. «Крестьянин» (1906—15, Вільня), штотыднёвік «Окраины России» (1906—12, Масква), газ. «Белорусский вестник» (1912—13, Вільня). Створаныя ў 1917 заходнярускія арганізацыі «Саюз беларускай дэмакратыі» (Гомель), «Беларускі нацыянальны камітэт» (Магілёў), «Беларускі народны саюз» (Віцебск) падтрымлівалі Часовы ўрад, пазней выступалі супраць Сав. улады. *П. У. Церашковіч.*

**ЗАХО́ДНЯЕ ПАЛЕ́ССЕ**, гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, які займае большую частку тэр. Брэсцкай вобл. Размешчаны ў басейне верхняй Прыпяці і яе прытокаў Піны і Ясельды, на З уключае правабярэжжа Зах. Буга. На Пн па вярхоўях р. Нараў і Ясельды мяжуе з *Панямоннем*, на ПнУ і У па лініі на Пн ад Целяхан і Лунінца і далей па міжрэччы Гарыні і Сцвігі — з *Усходнім Палессем* (карту гл. ў арт. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён*). Паўн. межы стасуюцца з зонай размежавання мясцовых этніконаў — палешукоў, ці багнавікоў (у зоне З. П.) і літвінаў (у межах Панямоння). Прыкладна па той жа занальнай паласе на сярэдневяковых картах пазначаліся межы паміж *Палессем* і *Чорнай Руссю*. На тэр. З. П. вылучаліся мясцовыя этнагр. групы пінчукоў і падлясан (падляшан) з уласцівымі ім самабытнымі рысамі традыцыйнай культуры і побыту. Межы рэгіёна ў асн. супадаюць з арэалам заходнепалескіх гаворак (гл. арт. *Дыялектная мова*).



**Засценак.** З малюнка 19 ст.

Насельніцтва З. П. этнагенетычна склалася на старажытнаслав. аснове (*валыняне, бужане, дрыгавічы, драўляне*) з удзелам асіміляваных *яцвягаў*, асобных груп мазаўшан і інш. Ва ўмовах адзінай Старажытнарус. дзяржавы культурна-бытавыя адрозненні паміж асобнымі групамі плямён паступова сціраліся, дамінаваў працэс этнічнай кансалідацыі. У складзе Вял. кн. Літоўскага З. П. утварала Берасцейскую зямлю, якая захоўвала абласную аўтаномію, мела свае прадстаўнічыя органы, у прыватнасці мясцовы сейм. Брэст першым з гарадоў Беларусі ў 1390 атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права. Палітычная і ідэалаг. барацьба ў 16 ст. прывяла ў 1596 да Брэсцкай царк. уніі, што на працягу наступнага перыяду накладвала пэўны адбітак на грамадска-паліт. жыццё і этнасацыяльныя адносіны. Пасля далучэння да Расіі (1793, 1795) З. П. ўваходзіла ў склад Гродзенскай і Мінскай губ., а ў 1921—39 — у склад бурж. Польшчы (Палескае ваяводства). Уз'яднанне Зах. Беларусі з БССР адкрыла новыя напрамкі ў культурна-эканам. развіцці З. П. Адзінства эканам. жыцця садзейнічала сціранню этнакульт. адрозненняў і збліжэнню на аснове адзінай сацыяліст. культуры.

На матэрыяльную і духоўную культуру жыхароў накладвалі адбітак прыродна-кліматычныя ўмовы (балоты, шматлікія рэкі, мяккі клімат), геагр. суседства і даўнія культурна-эканам. сувязі з Украінай і Польшчай. Найб. асвоенымі і густанаселенымі часткамі З. П. здаўна былі Загароддзе (паўшаны градава-марэнны масіў у міжрэччы Піны і Ясельды) і раён Падляшша (Пабужжа). Пінскае Палессе і левабярэжжа Ясельды мелі рэдкія пасяленні, раскіданыя сярод балот. Самабытны кут Пінскага Палесся — Зарэчча, дзе шматлікія рэкі (Стыр, Ясельда, Піна, Бобрык і інш.) упадаюць у Прыпяць на невялікай адлегласці, утвараючы мноства рукавоў, пратокаў, «гнілых» русел. Вясной і ў пачатку лета ўвесь гэты раён ператвараўся ў абшырнае возера, сярод якога ўзвышаліся астраўкі з вёскамі. Зносіны паміж імі, а нярэдка і паміж асобнымі дварамі адной вёскі, у гэты час ажыццяўляліся толькі з дапамогай лодак. Абмежаванасць ворных зямель, багатая азёрная і рачная фауна абумоўлівалі спецыфіку гаспадарчых заняткаў жыхароў Пінскага Палесся (побач з земляробствам і жывёлагадоўляй важнае значэнне мелі рыбалоўства і збіральніцтва). Вёскі З. П., у большасці мнагадворныя, размяшчаліся на адной ці групамі па берагах рэк, на пясчаных градах і дзюнах па краях балот. Традыц. сядзібная забудова — аднарадная (пагоннага тыпу), радзей — не звязаная паміж сабой (скучаная). Двары цесна прымыкалі адзін да аднаго, утвараючы вулічную ці гнездавую сістэму забудовы. Часам 2—3 дваровыя комплексы, што належалі розным гаспадарам (звычайна сваякам), размяшчаліся ў адзін рад на агульнай сядзібе. Такі тып забудовы развіўся ва ўмовах малазямелля і ў выніку распаду вялікай патранімічнай сям'і. Найб. характэрная структура традыцыйнага жылля: хата + сенцы + камора; хата + сенцы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. яна ўскладнялася выдзяленнем у сенцах кухні (прататыпам такой планіроўкі была традыцыйная хата з курнай печчу, што выходзіла вусцем у сенцы). У раёне Пабужжа нярэдка сустракаліся і хаты з падсенямі, што былі больш тыповымі для дробнай шляхты і заможных сялян. Зруб жылля рабілі з расколатых ці распілаваных удоўж бярвён (дыляў), якія злучаліся ў своеасаблівы вугал — «у каню» (арэал абмяжоўваўся на У

лініяй Драгічын — Хомск — Бяроза). У будаўніцтве гаспадарчых памяшканняў [клуні, павеці («шопа»), аборы, хлява для дробнай жывёлы («чок») і інш.] шырока выкарыстоўвалі шульнаслупавую канструкцыю з плятнёвымі сценамі, якія на зіму абкладвалі снапамі трыснягу ці саломы. Клець, свіран, сырнік будавалі на высокіх штандарах або сваях. Канструкцыйнай асновай тыповых для З. П. паўвальмавых з прычолкам стрэх з'яўляліся кроквы, што замацоўваліся па канцах бэлек, якія адначасова служылі апорай столі. Стрэхі крылі саломай, трыснягом, чаротам, звязанымі ў невялікія снапкі («астрыжкі»). Экзатычнасць сельскім краявідам надавалі шматлікія гняздоўі белых буслоў на высокіх стрэхах клуняў і жылых пабудоў.

Народнае адзенне З. П. вызначалася самабытнасцю і ўстойлівасцю традыцыйных форм, маляўнічасцю аздаблення жаночага касцюма. Класічнай завершанасцю форм і віртуознай распрацоўкай арнаменту вылучаюцца *кобрынскі строй* і *маларыцкі строй* (гл. таксама *Дамачаўскі строй, Мотальскі строй, Пінска-івацэвіцкі строй*). Толькі ў З. П. сустракаліся не ўласцівыя другім бел. рэгіёнам спадніцы з валенай воўны *(буркі)*, блізкія да панёвы фартухі (затулкі), старасвецкія наміткі (платы) з тонкіх адбеленых нітак, рытуальныя галаўныя ўборы. Вельмі разнастайныя па колеравай гаме і спосабах упрыгожання святочныя світы (латухі), кажухі і паўкажушкі. Найб. распаўсюджанымі спосабамі дэкарыравання адзення былі ўзорнае ткацтва, аплікацыя, гафрыраванне. Арнаментальным вырашэннем блізкія да адпаведных строяў *мотальскія ручнікі* і *пінска-івацэвіцкія ручнікі*. Тут існавалі буйныя цэнтры нар. промыслаў — ткацкіх, кушнерска-аўчынных, ганчарных (гл. *Палеская кераміка)*, дрэваапрацоўчых і інш. *В. С. Цітоў.*

**ЗАЦІРКА**, рэдкая страва з мукі. Называюць таксама зацерка, калатуша, саламаха. Жытнюю, пшанічную або грэцкую муку крута замешваюць або пераціраюць з вадой ці яйцом (часам з крухмалам), кідаюць у вар ці гарачае малако і вараць. З., прыгатаваную на вадзе, заскварваюць, запраўляюць алеем, забельваюць малаком. З. вараць часам так, як *калатушу*.

**«ЗА́ЯЦ»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Лакальныя назвы «Зайчык», «Заёнец». Бытуе, у асноўным, на Бел. Палессі. М. Федароўскі, які зафіксаваў яго з нотным прыкладам у канцы 19 ст. ў мяст. Свіслач Ваўкавыскага пав., паведамляў, што «З.» танцавалі ўдваіх. Танцоры над пакладзеным накрыж паленамі перабіралі нагамі накшталт *«Казачка»*, і той, хто зачэпліваў нагой за палена, аддаваў фант. Спявалі прыпеўку ў тэмпе «Кракавяка»: «На гурэ, гурэчцы, седзі заёнц, //Сваімі бялымі нужкамі пшэбераёнц...». Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на Гомельшчыне, дзе варыянты «З.» чаргаваліся павольнай і хуткай часткамі. Танец звычайна суправаджаўся прыпеўкамі:

На гарэ-гаронцы
Сядзелі заёнцы.
Яны сабе напявалі,
Шчыбіралі, шчыбіралі.
Каб я такі лапкі мела,
Я б таксама шчыбірала.

У сучасным побыце танец-гульня зафіксаваны ў Лельчыцкім р-не. Музычны памер $^4/_4$. Выконвае адзін чалавек, астатнія спяваюць: «На прыгорку сядзіць зайчык, // вон вушамі шавяляе, // ножкамі перабірае, // гэта зайчык, гэта зайчык». *А. Ю. Лозка, Ю. М. Чурко.*



**Заходняе Палессе.** Вёска Альшаны Столінскага раёна.



**«Заяц».** Выконваюць жыхаркі вёскі Бярозкі Брагінскага раёна.



**Збаны.**

**ЗБАН**, ганчарны выраб; гліняная пасудзіна для захоўвання малака і іншых вадкіх прадуктаў. Рабілі з выцягнутым тулавам, пукатымі бакамі, звужаным горлам, дзюбкай і вушкамручкай. Назва «З.» упамінаецца ў помніках старабел. пісьменнасці. У наш час большасць мясц. назваў мае арэальнае пашырэнне: на З Беларусі — З., на ПнУ — жбан, на У і ПдУ — кушын, на Прыпяцкім Палессі бытавала назва глечык, на Браслаўшчыне — ру́чнік. У зах. раёнах З. рабілі на 3—6 л з вельмі шырокім вусцем і выкарыстоўвалі яго ў якасці *даёнкі*. Лакальныя адрозненні ў прапорцыях сілуэта такія ж, як і ў *гарлачоў*. Выраблялі З. чорназадымленыя і паліваныя па ўсёй Беларусі (за выключэннем вёсак, дзе прымянялі архаічную тэхналогію вытворчасці керамікі налепам і фармовачную масу з дамешкам *жарствы*). Аздаблялі лінейна-хвалістымі контррэльефнымі ўзорамі, глянцаваным арнаментам у елачку, клетку, спіральныя лініі, геаметрычнай і расліннай падпаліўнай *ангобнай размалёўкай* і каляровымі фарбамі. *С. А. Мілючэнкаў.*

**ЗБІРА́ЛЬНІЦТВА**, адна з форм гаспадарчай дзейнасці чалавека, збіранне (здабыванне) гатовых дароў прыроды, у асноўным прадметаў харчавання і лекавых раслін. Пры першабытнаабшчынным ладзе існавала побач з паляваннем і рыбалоўствам, займала важнае

месца ў спажывецкай гаспадарцы і падрыхтавала ўмовы для вытворчай гаспадаркі. З пераходам да *земляробства* і *жывёлагадоўлі* набыло характар падсобнага (здабыўнога) промыслу. Больш прыкметную ролю выконвала і больш працяглы час захоўвалася ў лясных мясцовасцях. Сярод розных відаў З. для жыхароў Беларусі былі ўласцівы збіранне траў і караняплодаў, ягад і пладоў дзікарослых дрэў, грыбоў, мёду дзікіх пчол, здабыванне раслінных сокаў і інш. Кожны з відаў З. адпавядаў мясцовым умовам жыццядзейнасці, патрабаваў пэўных працоўных навыкаў і ўмення, звязаных з веданнем флоры, харчовых і лекавых якасцей пэўных раслін, іх феналагічнага цыкла і сезонных змен, аптымальных спосабаў і прыёмаў іх здабывання, пярвічнай апрацоўкі і захавання. Травяністыя расліны (лісце шчаўя, крапівы, лебяды) збіралі да іх цвіцення, складвалі ў фаскі і макатры, перасыпалі соллю, квасілі. З іх гатавалі варыва. Шчаўе, кісліцу, цыбулю лугавую, маладыя пабегі аеру і інш. ужывалі і свежымі. Хмель сушылі і захоўвалі на гарышчах, у клецях. З іван-чаю, чабару, мацярдушкі, зверабою, кветак ліпы рыхтавалі адвары. Мноства лекавых раслін сушылі. У якасці лекавых сродкаў выкарыстоўваліся галінкі маліны, парэчак, вішні, кара дубу, крушыны, каліны. Пашырана было збіранне ягад і дзікарослых пладоў. Лясныя ягады — суніцы,чарніцы, брусніцы, дурніцы, маліну, парэчкі, ажыну — спажывалі пераважна свежымі. Значную колькасць іх нарыхтоўвалі ў запас: брусніцы парылі ў гаршках, ссыпалі ў кадушкі і бочкі, дабаўлялі прыправу, рабілі з іх сокі і павідла (на мёдзе); чарніцы часцей сушылі; журавіны захоўвалі замарожанымі, дабаўлялі ў квашаную капусту, з іх рыхтавалі таксама сокі і напіткі. Ягады каліны і рабіны збіралі позняй восенню, іх захоўвалі на гарышчах, суквецці каліны закладвалі таксама ў стажкі сена, дзе яны вылежвалі пэўны тэрмін. У значнай колькасці назапашвалі ў лесе грушы, яблыкі, жалуды, арэхі. Грушы ссыпалі ў засекі свірнаў ці стопак, дзе яны даспявалі, сушылі ў печах. Яблыкі разразалі на скрылькі, нанізвалі на суравыя ніткі, вязанкамі сушылі на сонцы; іх закладвалі таксама ў сена, дзе яны захоўваліся на працягу ўсёй зімы. Важнае значэнне мела збіранне грыбоў. Перавагу аддавалі баравікам, падасінавікам, збіралі таксама абабкі, махавікі, казлякі, лісічкі, рыжыкі, зялёнкі, ваўнянкі. У кожнай мясцовасці былі свае звычаі і асабліваці ва ўжыванні тых ці іншых відаў грыбоў, у спосабах іх апрацоўкі і захоўвання. Большасць грыбоў спажывалі свежымі (смажанымі, варанымі), значную частку закладвалі ў кадушкі на засол; баравікі, падасінавікі, абабкі сушылі ў запас. Сушаныя грыбы і ягады сяляне збывалі на кірмашах, прадавалі скупшчыкам, якія вывозілі іх за межы Беларусі, асабліва ў стэпавую частку Украіны.

З. займала прыкметнае месца ў сялянскім жыцці, па працягу многіх стагоддзяў рэгулявалася звычаёвым правам. Паводле Статутаў Вялікага княства Літоўскага 16 ст., сяляне захоўвалі права «ўступу» (зямельныя сервітуты) у дзяржаўныя і панскія лясы з мэтай збору грыбоў, ягад, мёду дзікіх пчол і інш. Пазней са змяншэннем сервітутаў яны паступова страчвалі такое права і павінны былі за права карыстання піснымі ўгоддзямі плаціць грашовы чынш ці адрабляць на карысць яго ўладальніка некалькі дзён у годзе. З.— адзін з нямногіх старажытных промыслаў, які захаваў ва ўмовах урбанізацыі і прамысловай рэвалюцыі сваю архаічную форму і індывідуальны характар ручной працы. У наш час З. часцей мае форму аматарскага занятку, актыўнага адпачынку на ўлонні прыроды. *В. С. Цітоў.*



**Званіца.** Вёска Камень Валожынскага раёна.



Званіца са звопам. Вёска Ражкоўка Камянецкага раёна.

**ЗБІ́ЦЕНЬ**, 1) гарачае пітво на Беларусі ў 18—19 ст. У кіпень з мёдам, цукрам ці патакаю дабаўлялі спецыі (перац, гваздзіку, карыцу, мускатны арэх, лаўровы ліст і інш.), часам піва ці спірт. У нар. медыцыне — сродак папярэджання цынгі. 2) Густая маса, збітая, скалочаная з чаго-небудзь.

**ЗБОР**, нядзеля першага (аборнага) тыдня пасля *масленіцы*. Называлі таксама ізбор, узбор. Лічылася пачаткам збору селяніна ў поле («Сьвяты Ізбор лемяшы купіў»). У народзе з гэтым днём звязваўся самы пачатак вясны: «Святы Ізбор — пагнала снег з гор, снягі зганяе, воды пускае».

**«ЗБЮР ВЯДАМО́СЦІ ДО АНТРАПАЛО́ГІІ КРАЕ́ВАЙ»** («Zbiór wiadomości do antropologii krajowej», «Збор звестак па айчыннай антрапалогіі»), ілюстраваны штогоднік ліберальна-буржуазнага кірунку, орган Антрапалагічнай камісіі Акадэміі ведаў у Кракаве. Выдаваўся на польск. мове ў 1877—95. Рэдактар І. Капярніцкі (1877—91). Складаўся з трох асобна пранумараваных раздзелаў: археалагічна-антрапалагічнага, антрапалагічнага, этналагічнага. Быў разлічаны як на спецыялістаў, так і на шырокае кола чытачоў. Друкаваў навук. працы па матэрыяльнай і духоўнай культуры польск., бел., літоўскага і інш. народаў, змяшчаў бібліяграфію па антрапалогіі, археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыцы. Вераванням і абрадам беларусаў прысвечаны працы З. Глогера «Забабоны і ўяўленні наднарвінскага люду пра птушак, паўзуноў і насякомых. Сабраны ў 1865—1875 гадах» і «Вясельныя назвы, выказванні і прадметы, якія ўжываліся на вясельных абрадах люду на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай» (1877, т. 1), фальклору — публікацыі П. Быкоўскага «Абрадавыя песні рускага насельніцтва з ваколіц Пінска» (1878, т. 2), У. Дыбоўскага «Беларускія прыказкі з Навагрудскага павета» (1881, т. 5) і «Беларускія загадкі з Мінскай губерні» (1886, т. 10), Я. Карловіча «Народныя паданні і казкі, сабраныя ў Літве» (1887, т. 11; 1888, т. 12), О. Кольберга «Вясельныя звычаі і абрады з Палесся» і «Казкі з Палесся» (1889, т. 13), У. Вярыгі «Беларускія думкі з вёскі Глыбокае Лідскага павета Віленскай губерні, запісаныя ў 1885 годзе» (1889, т. 13), І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ «Беларуска-польскія песні з Сакольскага павета Гродзенскай губерні» (1892, т. 16) і «Дадатак да Беларуска-польскіх песень з Сакольскага павета Гродзенскай губерні» (1895, т. 18),



Драўляны трапецападобны **званок** з двума язычкамі.

Металічныя **званкі** грушападобнай і ўсечанай конусападобнай формы.

А. Гурыновіча «Зборнік беларускіх твораў...» (1893, т. 17), А. Чэрнага «Беларускія песні з Дзісенскага павета Віленскай губерні» (1895, т. 18) і інш. Працягам штогодніка былі «Матэрыялы антрапалагічна-археалагічныя і этнаграфічныя» («Materialy antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne»), якія выдаваліся ў 1896—1919.

*А. Ф. Літвіновіч.*

**ЗВАНІЦА**, збудаванне для размяшчэння званоў. Вядома з часоў Кіеўскай Русі. Існавалі З. як асобныя збудаванні і як часткі інш. збудаванняў (культавых, грамадскіх і г. д.). Дадаткова выкарыстоўваліся як гасп. памяшканні, брамы, дазорна-сігнальныя вышкі, абарончыя вежы. Найбольш яскрава рысы нар. дойлідства выявіліся ў драўляных З.: слупавых, каркасных, зрубна-каркасных. Простыя слупавыя выглядаліся ў выглядзе слупа з разгалінаваннем уверсе, дзе размяшчаўся звон. Больш развітыя слупавыя ўяўлялі сабой канструкцыю з 2 або 4 слупоў, злучаных уверсе бэлькамі, на якія падвешвалі званы; мелі 2-схільныя, вальмавыя, шатровыя стрэхі (в. Ражкоўка Камянецкага р-на, Віцебск, Дуброўна). Каркасныя З.— квадратныя ў плане, унутры падзеленыя памостам для званара на 2 ярусы і завершаныя шатровымі стрэхамі. Каркас утваралі 4—16 вертыкальных або нахіленых да цэнтра брусоў, злучаных паміж сабой гарызантальнымі і крыжовымі сувязямі (в. Шэметава Мядзельскага р-на). Ніжняя частка З. знадворку ашалёўвалася, верхняя адкрытая (галасніковая) аздаблялася аркадай, створанай фігурнымі падкосінамі (в. Хмелева Жабінкаўскага р-на). Зрубна-каркасныя З. найчасцей чацверыковыя 2-ярусныя (ніжні ярус зрубны, верхні каркасны адкрыты або ашаляваны ў ніжняй частцы дошкамі, пастаўлены на перакрыцце зруба), завяршаліся шатровымі стрэхамі, ярусы падзяляў *прычолак* (в. Мясяцічы Пінскага, Сінкевічы Лунінецкага р-наў). Верхні ярус афармляўся аркадай, балюстрадай (в. Муравапая Ашмянка Ашмянскага, Шарашова Пружанскага р-наў). У выніку развіцця між'ярусната прычолка ў прамежкавы ярус з'явіліся 3-ярусныя З. (в. Чэрск Брэсцкага, пас. Нарач Мядзельскага р-наў, г. Докшыцы). У 19 ст. частка З. мела васьмярык на чацверыку (в. Дзівін Кобрынскага р-на).

*Ю. А. Якімовіч.*



**Звездары** з вёскі Заходы Шклоўскага раёна. 1904.

**ЗВАНО́К**, самагучальны музычны інструмент. Той жа канструкцыі, што і *звон*. З. адрозніваюцца памерамі, формай, матэрыялам і спосабам вырабу, характарам гучання, прызначэннем. Металічныя З. з адным язычком (біла) грушападобнай ці ўсечанай конусападобнай формы адлівалі з бронзы, медзі, кляпалі з бляхі мясцовыя кавалі. Драўляныя трапецападобнай формы З. (ботала, кляпайла, калатушка, лышатуха, балабон) з двума язычкамі рабілі сталяры з дрэва цвёрдых парод (бяроза, клён). Гучанне падвешаных З. распастайнае па вышыні тону, сіле і афарбоўцы: ад яркага меладычнага да глухога і цьмянага, ад моцнага да прыглушанага. З. выкарыстоўвалі ў пастухоўскай практыцы (яны дапамагалі сачыць за жывёлай і адпужвалі ваўкоў, а паводле павер'яў — злых духаў); у розных абрадах — калядным (мужчыны хадзілі па вёсцы са звяздой і З., спяваючы калядкі; З. чаплялі на шыю «казы» і «кабылы»), масленічным (каталіся на санях, а запрэжаных коней прыбіралі стужкамі, З. і *шархунамі*), вясельным (рознагалосыя гукі З. і шархуноў апавяшчалі, што едзе вяселле), пахавальным (хадзілі са З. па вёсцы,

паведамляючы пра смерць кагосьці з жыхароў), а таксама ў час набажэнства ў касцёле. З. быў неад'емнай прыналежнасцю паштовай службы, чыгунак і школьных устаноў. З. з'яўляецца састаўной часткай *бубна*. *І. Дз. Назіна.*

**ЗВАР**, 1) падліва з капаплянага семені ці маку. Семя (мак) цёрлі, потым заварвалі. Спажываўся як посная прыправа. Пашыраны на Зах. Палессі. 2) Абрадавая страва, адвар з сушаных чарніц, яблык, груш з дабаўленнем мёду, які прыносілі жанчыны парадзісе ў час *адведак*. У наш час у якасці абрадавай стравы зрэдку сустракаецца ў сельскай мясцовасці на Палессі.

**ЗВЕЗДАРЫ**, група вясковай моладзі (пераважна падлеткі і дзеці), якая паводле старадаўняга звычаю на *каляды* хадзіла ад хаты да хаты з песнямі, скокамі, гульнямі і насіла на кіі асветленую знутры зорку — *звязду*. Нашэнне звязды суправаджалася *калядаваннем*, паказам «Казы», «Мядведзя», «Жорава», «Кабылы», «Цыганоў», батлейкі, скамарохаў. Спявалі калядныя песні, якія вызначаліся святочна-прыўзнятым, гулліва-гумарыстычным настроем і ў якіх выказваліся пажаданні дабра і заможнасці гаспадарам хаты.

**ЗВОН**, самагучальны музычны інструмент. Складаецца з корпуса грушападобнай формы і падвешанага ўнутры яго языка (біла). Адлівалі яго пераважна з бронзы. Бывае розных памераў, настройкі, сілы гучання і тэмбру. Гукавы спектр З. вызначае складанае спалучэнне гарманічных і негарманічных абертонаў, залежыць таксама ад рэльефу навакольнай мясцовасці. З. вядомы з 11 ст. Іх падвешвалі звычайна на дрэве, слупе, драўлянай ці мураванай званіцы. На званіцы прымацоўвалі да пяці спецыяльна падабраных З. Напр., у пач. 20 ст. на званіцы Мікалаеўскай царквы ў мяст. Смалявічы было 5 званоў: «вялікі», тры меншыя (сярэднія) і «лебедзь» (малы). Кожны З. гучаў своеасабліва, характэрна. Гаварылі: «У Чашніках звоняць: Блін з маслам! Блін з маслам! — тоўста; А ў Капціевічах: Хлеб з оўсом! Хлеб з оўсом! — драбней; А ў Казаноўцы: Абы быў! Абы быў! — зусім дробна». На Беларусі былі найб. пашыраны З. двух тыпаў: візантыйска-руск. (гук здабываўся ўдарам языка аб край нерухома замацаванага корпуса) і заходнееўрапейскі (гук узнікае пры ўдары корпуса аб нерухомы язык). З. пераважна невялікіх памераў адлівалі мясцовыя майстры-канвісары (Віцебск, Дзісна, Крычаў і інш.). У 2-й пал. 17—18 ст. існавалі цэхі канвісараў у Магілёве, адліўшчыкі званоў працавалі ў Слуцку, Клецку, Капылі, Нясвіжы. З 16—18 ст. захаваліся Моладаўскі, Дзісенскі, Крычаўскі З. Аздаблялі З. літым рэльефным арнаментам, гербамі, сімвалічнымі выявамі, часта змяшчалі дату і месца адліўкі, імя і прозвішча майстра. Гіст. і мастацкую каштоўнасць маюць надпісы на З., якія паведамляюць, з якой нагоды ён адліты (Моладаўскі З.). Да Кастр. рэвалюцыі З. адыгрываў у жыцці народа вялікую грамадска-бытавую ролю, выконваючы сігнальна-інфармацыйную функцыю: вечавы З. збіраў жыхароў на сход, набатны паведамляў усім пра небяспеку (пажар, паводка, вайна), «мяцельны» дапамагаў падарожнікам арыентавацца ў непагадзь. З. адбівалі час, яны былі неад'емнай прыналежнасцю свят, вянчальнага і пахавальнага абрадаў, іх выкарыстоўвалі на чыгунцы. З. на ратушы быў сімвалам свабоды горада, яго права на самакіраванне. У наш час З.— неад'емная частка шэрагу мемарыяльных комплексаў на ўшанаванне памяці ахвяр Вял. Айч. вайны (урочышча Гай, Хатынь і інш.). *І. Дз. Назіна.*

**ЗВЫЧАЁВАЕ ПРА́ВА**, сукупнасць гістарычна выпрацаваных і прынятых



Моладаўскі **звон**. 1583.

грамадствам няпісаных нормаў, правілаў паводзін і ўзаемаадносін людзей у розных галінах вытворчага, грамадскага і сямейнага жыцця. З. п., як адна з форм грамадскай свядомасці, фарміравалася на аснове *звычаяў*, якія існавалі ў дадзяржаўным грамадстве. Было пашырана ў рабаўладальніцкім грамадстве і ў перыяд ранняга феадалізму. Дыферэнцыраваныя ў працэсе развіцця грамадства звычаі служылі дзейсным сродкам далучэння індывідуума да вопыту канкрэтнага грамадства ці этнічнай групы, а таксама рэгулявалі паводзіны асобы, вызначалі яе месца і становішча ў калектыве, садзейнічалі кансалідацыі вытворчых, сацыяльных і этнічных супольнасцей, падтрымлівалі згоду і паразуменне паміж супляменнікамі, мір з суседзямі. Выкананню ўсталяваных нормаў З. п. садзейнічаў бясспрэчны аўтарытэт грамадскай думкі, якая ў многіх выпадках мела прэвентыўны характар, а таксама адчуванне чалавекам сваёй залежнасці ад калектыву. Значную ролю ў фарміраванні пазітыўнага стаўлення да агульнапрынятых нормаў адыгрывала выхаванне станоўчым прыкладам старэйшых і прымусам. Волю грамадства ажыццяўлялі старэйшыны і паважаныя прадстаўнікі супольнасці. Кожны з дзяцінства ведаў звычаі свайго калектыву і ўспрымаў іх у якасці абавязковых для выканання нормаў і правілаў, якія не падлягаюць ніякаму сумненню і крытыцы. Разам з тым З. п. не было застылай катэгорыяй грамадскай свядомасці, яно рэагавала і адгукалася на істотныя змены ўмоў жыцця.

З узнікненнем дзяржавы правячыя колы прыстасавалі З. п. да канкрэтных эканам. і паліт. умоў, але прызнавалі толькі тыя звычаі, якія не супярэчылі інтарэсам і волі пануючых колаў феадальнай дзяржавы. Распаўсюджаным спосабам санкцыяніравання норм З. п. з боку дзяржавы быў выбарачны метад дазволу або забароны кіравацца пры вырашэнні розных спраў тым ці інш. звычаем. У выніку многія нормы прававых звычаяў паступова страчвалі свае пазіцыі спачатку ў сферы грамадскага, потым вытворчага, а пазней і сямейнага жыцця.

Першыя пісьмовыя помнікі права («Руская праўда», дагавор 1229, Судзебнік 1497 і 1550) амаль цалкам заснаваны на нормах З. п. З развіццём бурж. грамадства З. п. замянялася пісаным правам. З. п.— адна з гал. крыніц збораў законаў феад. права — Статутаў Вял. княства Літоўскага 1529, 1566, 1588, якія дзейнічалі і на Беларусі. Найб. пашырэнне мела ў сельскай мясцовасці, дзе яно падтрымлівалася традыцыямі абшчыннага жыцця, дзейнасцю копных і валасных судоў (гл. *Копны суд*), судаводства якіх было заснавана на З. п. Некаторыя нормы З. п. збераглісля ў бел. вёсцы і выкарыстоўваюцца пераважна ў сферы сямейнага побыту і падчас вырашэння разнастайных спадчынных пытанняў. Сав. права прызнае магчымасць выкарыстання З. п. для запаўнення некаторых прававых прагалаў, але на практыцы яно амаль не выкарыстоўваецца.

Зямельнае звычаёвае права, нормы і правілы, якія ўстанаўлівалі ўмовы, парадак і формы карыстання зямлёю. У старажытнасці было заснавана на прызнанні за кожным чалавекам магчымасці карыстацца свабоднаю зямлёю. Апрацоўка аднаго і таго ж зямельнага ўчастка на працягу некалькіх гадоў стварала прававую аснову для замацавання гэтага ўчастка за карыстальнікам, фактычнае ўладанне ператваралася ў права ўласнасці. На аснове З. з. п. праводзіўся і падзел лесу паміж сумежнымі ўладальнікамі, якім прапаноўвалася рубіць прасекі кожнаму са свайго боку і «дзе сякеры сустрануцца, там і вызначыць мяжу».

Паводле З. з. п. кожны селянін меў права пасвіць жывёлу на чужой зжатай

ніве, карыстацца запушчаным полем, браць з дзярж. лесу дрэвы на свае патрэбы. Права на землеўладанне прызнавалася за галавой сям'і і за інш. членамі; пераважна яно замацоўвалася за мужчынамі, але не адмаўлялася і жаночае. Пры сямейных раздзелах сыны мелі права на частку бацькоўскага землеўладання, а дочкі — толькі на пасаг, які выдаваўся (пры наяўнасці сыноў) грашыма і рухомай маёмасцю. Аднак і дочкам бацькі маглі выдаваць у якасці пасагу частку ці нават усё сваё землеўладанне. За ўдавой права валодання зямлёю захоўвалася, калі не было дарослых сыноў і яна не выходзіла другі раз замуж. З. з. п. да 16 ст. прызнавала права ўласнасці на зямлю і ў феадальна залежных сялян. Паводле Статутаў Вял. кн. Літоўскага 1529 і 1566 забаранялася купляць землі сялян без дазволу іх паноў, прызнавалася, хаця і абмежаванае, права сялян на зямлю. Статут 1588 аформіў неабмежаваныя правы шляхты на зямлю, канчаткова запрыгоніў сялян.

Спадчыннае звычаёвае права, няпісаныя нормы і правілы, якія ўстанаўлівалі парадак пераходу маёмасці, правоў і абавязкаў пасля смерці асобы яе спадчыннікам. Першымі спадчыннікамі былі сыны. Замужнія дочкі, якія жылі асобна ад бацькоў, права на спадчыну не мелі, бо сваю долю атрымалі ў выглядзе *пасагу*. Незамужнія дочкі паводле завяшчання атрымлівалі частку маёмасці, у выпадку адсутнасці завяшчання і ўзнікнення спрэчак ім належала $^1/_4$ частка вартасці ўсёй маёмасці незалежна ад колькасці сыноў ці дачок у сям'і. Калі не было сыноў, маёмасць пераходзіла да дачок. Маёмасць маці атрымлівалі ў спадчыну ў аднолькавых долях і сыны, і дочкі. Калі дарослыя сыны былі аддзелены, бацькоўская хата пакідалася малодшаму, пры якім заставалася і ўдава спадчынадаўцы. Пры адсутнасці дзяцей маёмасць пераходзіла да братоў памерлага, пасаг жонкі вяртаўся ў дом, з якога яна выйшла. З увядзеннем пісанага права спадчына паводле звычаёвага права не адмянялася, а набывала форму спадчыны па закону.

Сямейнае звычаёвае права, няпісаныя нормы і правілы, якія рэгулявалі асабістыя і маёмасныя адносіны, што ўзнікалі са шлюбу і прыналежнасці да сям'і. Паводле С. з. п. ў беларусаў шлюб бралі ў некалькі этапаў: *сватанне*, *аглядзіны*, *заручыны* (змовіны), вянчанне і *вяселле*. Сватанне і аглядзіны, як падрыхтоўчыя дзеянні, ніякіх прававых вынікаў не мелі, апошнія наступалі толькі пасля заручын. Той, хто адмаўляўся ад шлюбу, павінен быў вярнуць панесеныя выдаткі. Асноўныя правамоцтвы пры заручынах належалі бацькам, блізкім сваякам ці апекунам маладых. Калі ў сям'і было некалькі дачок, аддавалі раней старэйшую, потым малодшую. Узрост, з якога маглі ўступаць у шлюб, у С. з. п. не быў дакладна ўстаноўлены. Паводле царкоўных правілаў у шлюб маглі ўступаць дзяўчаты з 12—14, хлопцы з 14—15 гадоў (паводле Статутаў 1529 і 1566 паўналетнімі лічыліся дзяўчаты з 15, хлопцы з 18 гадоў, паводле Статута 1588 шлюбны ўзрост для дзяўчыны — 13 гадоў). Шлюб адбываўся са згоды маладых і іх бацькоў (ці блізкіх сваякоў). Згода на шлюб жаніха і нявесты мела значэнне, калі яны былі матэрыяльна незалежныя і ў сталым узросце. Часцей яна была фармальнасцю. Вяселле праходзіла ўрачыста, суправаджалася нар. абрадамі. На вяселле запрашалі вельмі многа гасцей. Пасля вяселля, незалежна ад таго, адбылося царкоўнае вянчанне ці не, шлюб лічыўся агульнапрызнаным і грамадска замацаваным. Узаемаадносіны мужа і жонкі ў сям'і залежалі ад іх характару, паходжання і маёмаснага становішча (маёмасць, якую яны ўнеслі пры шлюбе). Прызнанне па С. з. п. маёмасных правоў жанчыны забяспечвала ёй пэўную свабоду як гаспадыні ў доме, а не служанкі мужа. Пасаг жонкі, хоць і пераходзіў у агульную ўласнасць сям'і, забяспечваўся нерухомай маёмасцю мужа. Калі муж быў бяднейшы за жонку і прыходзіў да яе ў дом, жонка абмяжоўвала яго правы па распараджэнню маёмасцю. Але і ў гэтым выпадку ён лічыўся галавой сям'і. Доля дзяцей у агульнай маёмасці не была дакладна вызначана, хоць іх права і не адмаўлялася.

*С. Ф. Цярохін, І. А. Юхо.*

**ЗВЫ́ЧАЙ**, гістарычна ўсталяваны і агульнапрыняты ў пэўным грамадстве або сацыяльна-этнічнай групе спосаб паводзін. Як норма паводзін узнік у глыбокай старажытнасці. У аснове З. першапачаткова ляжалі табу — розныя забароны і абмежаванні, якія ўспрымаліся з дзяцінства і ўзнаўляліся ў новых пакаленнях без абмеркавання і абгрунтавання. Выпрацаваны і адшліфаваны вытворчым і бытавым вопытам у працэсе развіцця грамадства, З. рэгуляваў паводзіны асобы, вызначаў яе месца ў калектыве і характар узаемаадносін з супляменнікамі, садзейнічаў кансалідацыі этнічных і вытворчых супольнасцей. Канчатковая мэта З.— стварэнне аптымальных умоў і магчымасцей здабывання жыццёвых сродкаў, забеспячэння існавання і захоўвання цэльнасці супольнасці. У ролі З. маглі выступаць вытворчыя навыкі, рэлігійныя абрады, грамадзянскія святы і інш. На аснове З. фарміравалася *звычаёвае права*. З узнікненнем дзяржавы і кадыфікаванага ёю права частка З. страчвала грамадскі характар і цалкам падпадала пад кантроль дзярж. апарату. Развіццё капіталізму, пашырэнне сувязей з інш. культурамі, паглыбленне секулярызацыі грамадскага жыцця яшчэ больш звужала зону дзеяння З. У сацыяліст. грамадстве ў якасці рэгулятара грамадскай дзейнасці пераважна выступаюць сацыяльныя ін-ты і нормы сацыяліст. грамадства. З. захоўваюцца ў сферы побыту, сям'і, маралі і грамадзянскай абраднасці.

Тэрмін «З.» часта атаясамліваюць у сілу семантычнай блізкасці з тэрмінамі «традыцыя», *«абрады»* і «этыкет» (гл. *Народны этыкет*). Аднак традыцыі ахопліваюць значна большае кола з'яў: З. паняцце відавое, традыцыя — радавое. З.— адна з форм выяўлення і рэалізацыі традыцый, якія, акрамя З., перадаюць з пакалення ў пакаленне такія кампаненты грамадскай свядомасці, як паданні, погляды, густы, ідэі, ідэалы, перакананні, веды і інш. У працэсе гіст. развіцця грамадства некаторыя З. абрасталі і суправаджаліся разнастайнымі, але строга акрэсленымі, умоўнымі рухамі і дзеяннямі, якія атрымалі назву абрады. Аднак паміж З. і абрадам існуе істотная розніца: З. падае ўзоры для пераймання, узнаўляе і замацоўвае правілы паводзін, мэта абраду — пры дапамозе эмацыянальна насычанай сімволікі садзейнічаць трываламу засваенню сацыяльнага вопыту. Сэнс абраду заключаецца не ў рухах і дзеяннях саміх па сабе, а ў тым, што яны сімвалізуюць. Для абазначэння найбольш урачыстых абрадаў часта выкарыстоўваюць тэрмін «рытуал», але ён увасабляе не столькі змест якіх-небудзь духоўных каштоўнасцей, колькі акцэнтуе ўвагу на галоўнай падзеі, выказвае тыя ці інш. адносіны да яе. У адрозненне ад этыкету, сукупнасці правілаў абыходжання і ветлівасці, З. адлюстроўвае не знешні, а ўнутраны змест паводзін.

*С. Ф. Цярохін.*

**ЗВЯДЗЕ́ННЕ**, абрад яднання жаніха і нявесты, традыцыйнае вянчанне, асноўны акт *вяселля*. У некаторых мясцовасцях пашырана назва злучэнне, заручыны маладых. Адзін з самых старажытных абрадаў. Удзельнічалі ў ім маці нявесты, а таксама яе брат або сват. Бацька нявесты і бацька жаніха ўдзелу не прымалі. Абрад выконваўся ў хаце або ў двары нявесты абавязкова ў прысутнасці абодвух родаў, якія станавіліся адзін насупраць другога, а маладыя — насупраць маладой. Сват або брат прымушаў маладых моцна абняцца, затым тройчы абкручваў іх ручніком. У некаторых мясцовасцях маладога падштурхоўвалі да маладой, злучалі іх рукі (або малады сам браў руку маладой), сплятаді і пярэдка падпальвалі злучаныя пасмы іх валасоў, звязвалі рукі і саміх маладых поясам або ручніком, садзілі іх разам на покуць, накрывалі абодвух наміткай ці кавалкам палатна. Гэтыя дзеянні азначалі яднанне маладых. Каб замацаваць яго, дзеянні выконваліся шмат разоў, вар'іраваліся, што, відаць, было вынікам наслаення і ўзаемадзеяння абрадаў розных эпох і арэалаў. У розных мясцовасцях элементы, паслядоўнасць і спосабы выканання абраду З. былі неаднолькавыя. У наш час традыцыйны рытуал З. выходзіць з ужытку.

*Л. А. Малаш.*

**ЗВЯЗДА́**, рухомая шматпрамянёвая

асветленая знутры зорка на кії, з якой хадзілі (вялікую З. часам вазілі) так званыя *звездары*; атрыбут каляднай абраднасці. Да каркаса (ім мог быць абечак) са знешняга боку прымацоўвалі пруткі і злучалі іх папарна так, што атрымліваліся промні (рогі З.). Канструкцыю абклейвалі паперай і аздаблялі разнаколернымі *выцінанкамі*, паскамі фігурна выразанай паперы або фольгі. З. мела 5, 8, 16 промняў, якія заканчваліся пышнымі пампонамі з разнаколернай паперы. Цэнтр. асветленую нерухомую частку яе (у рух прыводзіліся толькі промні пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў) займаў малюнак або абраз на біблейскую тэму.

Мяркуюць, што звычай нашэння З. бярэ пачатак у язычніцкіх абрадах славян, калі ў гонар адраджэння бога сонца *Ярылы* насілі выяву свяціла (*каляды* супадаюць з перыядам зімовага сонцазвароту). Звездары звычайна адкрывалі калядны карнавал, таму З. ўспрымалася як своеасаблівы сімвал гэтага свята і прыстасавана да яго традыцыйнага тэатралізаванага прадстаўлення. У суправаджэнні гурту калядоўшчыкаў звездары спявалі калядныя песні, калі хадзілі з батлеечнікамі або самі па сабе,— пераважна псальмы і канты. Звычай нашэння З. быў пашыраны на Беларусі да 1920-х г.

*М. А. Каладзінскі, М. Ф. Раманюк.*

**ЗДО́ЛЬНІК**, 1) чалавек або цэлая сям'я, прынятая ў вялікую гаспадарку для агульнай працы, калі не хапала рабочых рук. Сем'і аб'ядноўваліся паводле дагавору, згодна з якім гаспадаром лічыўся ўладальнік маёмасці і зямельнага ўчастка. Гаспадар строга сачыў за выкананнем дагавору, але не меў права ўмешвацца ва ўзаемаадносіны сям'і са З. Сем'і са З. існавалі да сярэдзіны 19 ст. 2) Прыёмныя сын ці дачка, якія мелі права на частку маёмасці. *Г. М. Курыловіч.*

**ЗДО́ЛЬНІКІ**, дольнікі, катэгорыя сялян у Старажытнай Русі і Вялікім княстве Літоўскім да 16 ст., якія плацілі феадалу за арэнду зямлі долю ўраджаю (вызначалася феадалам і складала да 50—75 %). Здольшчына — адзін са спосабаў закабалення сялян.

**ЗДОР**, нутраны свіны тлушч. У некаторых мясцовасцях пашырана назва выдзер. З. здымаюць з тушы пластом, соляць, дадаюць духмяныя прыправы, скочваюць у качулку (трубу, булку, галушку), перавязваюць ніткамі, складваюць разам з салам у кубел (дзежку), а на лета вешаюць на гарышчы (звычайна ў кашы або спец. клетцы). Тонкі З. з кішак, са страўніка вымочваюць, потымператопліваюць (ператоп, смалец). З. запраўляюць страву, смажаць да бліноў. *Г. Ф. Вештарт.*

**ЗЕМЛЯРО́БСТВА**, галіна сельскай гаспадаркі; асноўны занятак насельніцтва Беларусі са старажытных часоў. У шырокім (сучасным) сэнсе адпавядае раслінаводству і ўключае ворыўнае З., лугаводства, садоўніцтва і лесаводства. Яго аснова — ворыўнае З., якое грунтуецца на апрацоўцы глебы і вырошчванні культурных раслін з ужываннем спец. сродкаў і адпаведных прылад працы. Вытворчы працэс уключае падрыхтоўку і апрацоўку глебы, сяўбу, догляд пасеваў, уборку, упарадкаванне і захоўванне ўраджаю. Асноўнай цяглавай сілай у З. да сярэдзіны 20 ст. была рабочая (цяглавая) жывёла — конь і вол (гл. ў арт. *Жывёлагадоўля*). Традыцыйныя земляробчыя прылады — *саха, рала, барана, акучнік, матыка*, рыдлёўка, *серп, каса, вілы, граблі, цэп* і інш., кожная з якіх была прызначана для пэўнага віду работ, хоць выяўляла прыкметную поліфункцыянальнасць і мела рэгіянальна-тыпалагічныя адрозненні. Для ўпарадкавання і захоўвання ўраджаю служылі спец. гасп. пабудовы — *гумно, асець, клець, варыўня, склеп* і інш.

Эвалюцыя З. адлюстроўвала паслядоўныя этапы ў развіцці вытворчых сіл і сацыяльна-эканам. адносін. З. ўзнікла на базе *збіральніцтва* і аселага ладу жыцця. Ускосныя звесткі аб ім адносяцца да часоў неаліту (3-е тыс. да н. э.). Аднак знаходкі прылад працы той пары (каменныя і рогавыя матыкі, крамянёвыя сярпы) не даюць бясспрэчных доказаў пра існаванне З. Верагодныя даныя аб ім адносяцца да эпохі бронзы (канец 3 — пач. 1-га тыс. да н. э.), пра што сведчаць археал. знаходкі рэштkаў культурных раслін пшаніцы, ільну, проса. Пры раскопках паселішчаў ранняга жалезнага веку выяўлены таксама зерні гароху, вікі, палявых (конскіх) бабоў. Да гэтага часу адносяцца і знаходкі першага старажытнага рала (каля в. Капланавічы Клецкага р-на, эпоха зарубінецкай культуры), што сведчыць пра пераход ад матыжнага З. да ворыўнага. Укараненне жалезных прылад працы стала пачаткам значных змен і ў сістэме З., і ў грамадскай арганізацыі працы, паскорыла пераход да патрыярхальнага ладу і станаўлення класавага грамадства. Структура З. істотна не мянялася на працягу многіх стагоддзяў. Асн. месца ў З. займалі збожжавыя культуры (азімае жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка, проса), сеялі лён, каноплі, бабовыя (гарох, палявыя бабы, віку). Вырошчвалі гародніну (капусту, буракі, агуркі, моркву, рэдзьку, цыбулю, рэпу). З 18 ст. стала пашырацца культура бульбы, якая для бел. селяніна хутка стала «другім хлебам». З канца 19 ст. важнае месца ў севазваротах займаюць пасевы кармавых траў.

Стан З., узровень агратэхнічных ведаў і характар узаемадзеяння з экалагічным асяроддзем у значнай ступені адлюстроўваюць сістэмы З., сярод якіх вылучаюць некалькі асноўных сістэм: падсечна-агнявую (лядную), абложную (ялавінная), трохполле і шматполле. Кожнай з іх уласцівы варыянты і асаблівасці, звязаныя з размеркаваннем пасяўных плошчаў, чаргаваннем пасеваў, прыёмамі апрацоўкі глебы і інш. Да канца 19 ст. склалася некалькі аграрных раёнаў з уласцівымі ім асаблівасцямі спецыялізацыі, структурай пасяўных плошчаў, узроўнем агратэхнікі, працоўнымі традыцыямі, навыкамі, звычаямі, абрадамі. Найб. заселенай і асвоенай пад З. была сярэдняя палоса Беларусі, раўніны Панямоння, Цэнтр. Беларусі і левабярэжжа Дняпра. Ворыўная зямля ў сярэдзіне 19 ст. складала тут да палавіны ўсіх с.-г. угоддзяў. У сістэме севазваротаў панавала трохполле. Недахоп зямлі і яе адносная ўрадлівасць прымушалі сялян часам прымяняць двухполле без папару. У панскіх маёнтках побач з трохполлем сустракалася чатырохполле з пасевамі кармавых траў. Мясцовыя жыхары атрымлівалі параўнаўча высокія ўраджаі збожжавых (у 1802—03 сярэдняя ўраджайнасць у Гродзенскай губ. складала сам-4 — сам-5). Менш спрыяльнымі для З. былі ўмовы ў паўн. і паўд. частках Беларусі. Дзярнова-падзолістыя, часта завалуненыя глебы, мноства марэнных узвышшаў, азёр, адносна кароткі вегетацыйны перыяд (178—185 дзён) звужалі магчымасці хлебаробства на поўначы Беларусі (Паазер'е). Побач са збожжавымі ў структуры пасеваў тут важную ролю адыгрываў лён. У сувязі са зніжэннем урадлівасці зямель ад частых яго пасеваў значныя плошчы пакідаліся пад *аблогу*, а з канца 19 ст. з мэтай узнаўлення іх урадлівасці сталі шырэй прымяняць травапольныя севазвароты. На Палессі традыцыйнае З. было максімальна прыстасавана да мясцовых экалагічных умоў. Найб. абжытымі тут былі лёсавыя раўніны ў басейне Ніжняй Прыпяці, цэнтр. (Тураўскі) масіў і раён Пабужжа. Вялізныя імшары Прыпяцкага Палесся мелі рэдкія паселянні і былі слаба асвоены чалавекам. Значную плошчу с.-г. угоддзяў займалі сенакосы і няўдобіцы. Пад ворыва асвойваліся невялічкія ўчасткі, што ў выглядзе шматлікіх дзюн-астраўкоў былі раскіданы на значнай плошчы сярод неабсяжных балот і лясоў. Так, у раёне воз. Чырвонае на сялянскі двор у 2-й пал. 19 ст. прыходзілася да 20 такіх участкаў памерамі $^1/_5$ дзесяціны і менш. Вясной мясцовыя жыхары перапраўляліся на чоўнах з аднаго вострава на другі, ставілі там курані, што служылі ім часовым жыллём, апрацоўвалі і засявалі адзін участак за другім, у канцы лета збіралі ўраджай, абмалочвалі снапы ці складвалі іх неабмалочанымі на высокім памосце (гл. *Адонак*), дзе яны маглі захоўвацца і некалькі год. Раздробленасць зямельных участкаў і спецыфічная экалогія абумоўлівалі адпаведныя спосабы апрацоўкі зямлі, пашыранасць лядаў і лясных аблог, якія побач з папарнай (трохпольнай) сістэмай захоўваліся тут да пач. 20 ст.

За шматвяковую гісторыю бел. хлебаробы накапілі багаты вопыт працоўнай дзейнасці. Іх земляробчы каляндар увабраў практычныя назіранні за феналагічнымі зменамі (прылёт з вы-

раю птушак, цвіценне пэўных раслін і выспяванне пладоў, стан надвор'я), якія ўвязваліся ў адзін прыродны рытм і захоўвалі шэраг карысных у паўсядзённай гаспадарчай дзейнасці парад і прагнозаў. У традыцыйным светаўспрыманні беларусаў с.-г. праца была асветлена пафасам веры ў яе жыццесцвярджальную сілу і была арганічна звязана з устойлівай сістэмай земляробчых абрадаў, традыцый, павер'яў. Да веснавой сяўбы селянін рыхтаваўся яшчэ з зімы: адбіраў насенне, вырабляў карабы і копыкі, рыхтаваў мяшкі, чыніў вупраж, ладзіў саху, барану. Першы выхад у поле (*заворванне*) быў для яго святам, як і інш. цыклы З., суправаджаўся розпага роду абрадавымі дзеяннямі. Рытуальныя формы іх мелі асаблівасці ў розных рэгіёнах Беларусі. У Паўн.-Усх. Беларусі заворванню часцей папярэднічалі *провідкі*. Захоўваючы агульнаславянскую аснову, земляробчыя абрады адлюстроўвалі вечную ідэю барацьбы двух пачаткаў — добрага і злога, светлага і цёмнага, жыцця і смерці на ўзроўні звычаёвай свядомасці, што знаходзіла сваё выяўленне ў сімвалічных абярэгах, нейтралізацыі нядобрых пачаткаў і інш. У асобных рытуальных элементах прасочваецца сувязь з ахоўнай магіяй, якая пазней страціла свой сэнс. У тым жа ідэйным рэчышчы былі вытрыманы і рытуальныя нормы, звязаныя з сяўбою (гл. *Засеўкі*). Наступны комплекс абрадавых дзеянняў прыпадаў на перыяд уборкі ўраджаю (гл. *Зажынкі*, *Дажынкі*). Земляробчыя абрады знаходзілі адлюстраванне і ў іншых каляндарных святах — *гуканне вясны*, *купалле*, *сёмуха*, *спас*, *пакровы* і інш. Будучы неад'емнай часткай традыцыйнай масавай культуры, яны выконвалі важную ролю ў яе жыццядзейнасці, у захаванні духоўнай спадчыны, у працоўным выхаванні маладога пакалення. Некаторыя традыцыйныя звычаі і абрады часткова захаваліся ў сялянскім побыце да нашага часу. Пераасэнсаваныя і прыстасаваныя да новых сацыяльна-эканам. умоў, яны знайшлі сваё месца ў сістэме сучасных працоўных свят — *Свята першай баразны*, *Свята ўраджаю*, касавіцы і інш.

Сучаснае З. групуецца на найноўдных дасягненнях агратэхніч. навукі, усебаковай механізацыі і электрыфікацыі с.-г. вытворчасці. Навукова-метадычным цэнтрам развіцця с.-г. навукі на Беларусі з'яўляецца Зах. аддзяленне Усесаюзнай акадэміі с.-г. навук імя У. І. Леніна. Праблемамі сельскай гаспадаркі займаюцца НДІ земляробства; глебазнаўства і аграхіміі; бульбаводства, садавіны і гароднінм; аховы раслін; эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі; ветэрынарыі Дзяржаграпрома БССР; Цэнтр. НДІ механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Нечарназёмнай зоны СССР; некаторыя ін-ты АН БССР. Павышэнне ўрадлівасці глебы за кошт шырокага ўжывання арганічных, мінеральных угнаенняў і мнагапольных севазваротаў, вывядзенне новых гатункаў раслін, якія павінны максімальна адпавядаць заданым якасным паказчыкам, меліярацыя зямель, павелічэнне энергаўзброенасці працы садзейнічаюць інтэнсіфікацыі і эфектыўнасці вытворчасці, павышэнню ўраджайнасці с.-г. культур. Адбыліся змены і ў структуры З.: зменшылася ўдзельная вага збожжавых, павялічыліся пасевы бульбы, кораняплодаў, ільну, кармавых траў; пашыраны новыя культуры — кукуруза, цукровыя буракі, таматы і інш. Беларусь адносіцца да раёнаў развітага садаводства. Аднак у параўнанні з жывёлагадоўляй роля З. знізілася. Сучасныя праблемы З. звязаны з укараненнем лепшых дасягненняў навукі, рацыянальным выкарыстаннем наяўных рэсурсаў, наладжваннем разумных узаемаадносін з прыроднай экалогіяй, паміж грамадскай і асабістымі гаспадаркамі.

*В. С. Цітоў.*

**«ЗЕ́МЯ»** («Ziemia», «Зямля»), краязнаўчы ілюстраваны часопіс Польскага краязнаўчага таварыства. Выдаваўся ў Варшаве на польск. мове ў 1910—14, 1919—20, 1922—39. Друкаваў даследаванні па гісторыі матэрыяльнай і



Зерневая яма.

духоўнай культуры польск., бел., рус., укр. і інш. народаў, нарысы, рэцэнзіі, справаздачы таварыстваў і музеяў, здымкі ўзораў нацыянальнага адзення, помнікаў архітэктуры, партрэты дзеячаў навукі і культуры. У часопісе змешчаны матэрыялы пра Віцебск і Віцебшчыну (1912), пра калядаванне, бел. нар. тэатр, пра батлейку на Міншчыне (1913, № 10), нар. мастацтва (1931, № 6) і архітэктуру (1925, № 10/12) Навагрудчыны, па гісторыі Полацкага ваяводства (1913), г. Нясвіжа, Навагрудка, Слоніма (усе 1925, № 10/12), Ліды (1931, № 6). У часопісе супрацоўнічалі этнографы, фалькларысты і археолагі М. Федароўскі, Я. Булгак, К. Машынскі, Ч. Пяткевіч, В. Шукевіч і інш. *Н. А. Ляшковіч.*

**ЗЕ́РНЕВАЯ Я́МА**, сховішча для збожжа. Вядома са старажытнасці. Капалі яму звычайна ў гліністай глебе ў форме гладыша з вузкім горлам, глыбінёй 2—3 м. Яна магла змясціць да 15 чвэрцей збожжа. Сцены ямы абпальвалі, потым абкладвалі саломай ці бярозавай карой. Зерне ў такіх ямах можна было захоўваць некалькі гадоў. З. я. спарадычна сустракаліся ў Магілёўскай і Мінскай губ. да канца 19 ст. Менш іх было ў балоцістых мясцінах з высокім узроўнем грунтавых вод. У канцы 19 — пач. 20 ст. для захоўвання збожжа паўсюдна на Беларусі будавалі свірны; бяднейшыя сяляне захоўвалі зерне ў кадаўбах, скрынях.

*Л. І. Мінько.*

**ЗІМО́ВЫ НЕ́ВАД**, традыцыйная рыбалоўная снасць для падлёдпай лоўлі рыбы на азёрах. Самы вялікі з усіх тыпаў *невадоў* (даўжыня крыла да 200 м, матні — 30 м). Неваднае палатно вязалі з канапляных нітак. У лоўлі З. н. удзельнічала 15 — 40 і болей чалавек. Спачатку пешнямі прабівалі сістэму палонак: вялікую (падача) для ўтаплення невада; 2 рады невялікіх — для прагону жэрдак (хохлаў) з невадными вяроўкамі (кадоламі) пры дапамозе *крукоў* і *сашыл* і яшчэ адну вялікую для выцягвання невада на лёд. Каб працягнуць З. н. пад лёдам, выкарыстоўвалі спец. прыстасаванне — *бабу*. Рыбу з невадных крылаў выбіралі рукамі, з матні вычэрпвалі падсакай. З. н. былі пашыраны на тэр. сучаснай Віцебскай, ПнЗ Мінскай і Пн Гродзенскай абласцей. Паазерскія рыбакі выязджалі рыбачыць З. н. на азёры Палесся і па-за межы бел. губерняў. На Віцебшчыне З. н. называлі часам асташамі (ад г. Асташкава Цвярской губ., адкуль, магчыма, ён быў завезены на Беларусь). У наш час З. н. выкарыстоўваюць у прамысловым рыбалоўстве; яго вырабляюць з сінтэтычных матэрыялаў, пры эксплуатацыі ўжываюцца механізмы. *І. М. Браім.*

**ЗЛІ́ЎКІ**, 1) традыцыйны абрад ачышчэння парадзіхі і *бабкі*-павітухі. Павітуха і парадзіха мылі рукі, суправаджаючы разнастайнымі магічнымі дзеяннямі і замовамі. Пасля З. павітуха атрымоўвала падарунак. 2) Абрад купання нованароджанага на 3-ці дзень пасля хрышчэння ў царкве (у ваду дабаўлялі авёс і хмель). Лакальныя назвы жмуркі, муравінкі. Пасля купання даіцця «ставілі» на кажух (каб было багатым), а ваду вылівалі ў такое месца, дзе не ходзяць людзі і жывёла (каб было спакойным). У наш час абрад поўнасцю знік.

**ЗЛЫ́ДНІ**, вобразы беларускай і ўкраінскай народнай дэманалогіі; нячыстая сіла, увасабленне бяды, нягоды, якія напалі на чалавека, яго сям'ю, гаспадарку. Уяўлялі З. у вобразе нябачных старцаў. Лічылася, дзе яны паселяцца, там вечна будзе беднасць: «Упрасіліся злыдні на тры дні, а ў тры гады не выжывеш».

**ЗМО́ВІНЫ**, адзін з падрыхтоўчых этапаў *вяселля*; тое, што і *заручыны*.

**ЗНАХА́РСТВА**, вядомыя са старажытных часоў прымітыўныя спосабы лячэння, якія суправаджаліся рознымі рытуаламі. Спачатку З. не аддзялялася ад *народнай медыцыны*, пазней адасобілася як лячэбная *магія* і выкарыстоўвалася ў інтарэсах рэлігійнага культу. З. паступова ператваралася ў сродак узбагачэння саміх знахароў. З развіццём грамадства змест, формы і віды З. істотна мяняліся. Знахар для лячэння розных хвароб выкарыстоўваў замовы, магічныя дзеянні, травы. Да знахара звярталіся з такімі хваробамі, як «пярэпалахі», ці «спуджанне», «порча», «суроцы» (хваробы ад ліхога вока), «падвей» (ад скразняка), «прыстрэк», «крыкса-плакса» і інш. Звычайна знахары спецыялізаваліся на якой-небудзь адной хваробе: адны з іх лячылі «рожу» (рожыстае запаленне скуры), другія — «вогнік» (высыпка, лішаі на скуры), трэція — «крыксу-плаксу» і г. д. Некаторыя знахары валодалі пэўнымі ведамі ў галіне нар. медыцыны, ведалі мясцовую флору, збіралі зёлкі і рыхтавалі з іх настоі, адвары, розныя мазі. У аснове лячэбнай магіі ляжала вера ў звышнатуральныя сілы, у тое, што чалавек пры пэўных абставінах можа паўздзейнічаць на гэтыя сілы. Пэўную падтрымку містыка-рэлігійных уяўленняў на прычыны хваробы і спосабы лячэння з дапамогай «святой» вады і малітваў зрабіла царква са сваім культам святых, малебнамі, хрэснымі ходамі да «святых мясцін», прошчаў і інш. Распаўсюджанне З. было выклікана адсутнасцю медыцынскай дапамогі, невуцтвам і забабонамі.

У наш час з ростам культуры і дабрабыту народа, з шырокай сеткай бясплатнага медыцынскага абслугоўвання і пашырэннем санітарнай асветы З. хутка знікае. З. ў СССР караецца законам. *Л. І. Мінько.*

**«ЗО́ЛАТА»**, гульня. Лакальныя назвы «Цурка», «Кальцо». Удзельнікі садзіліся кругам або ў рад. Вядучы ў далонях трымаў «З.» (пярсцёнак, манету, цукерку) і імітаваў перадачу яго ў працягнутыя злучаныя далоні астатніх удзельнікаў, прыгаворваючы: «Я з кута іду, золата нясу. Угадайце, баяры, дзе золата зяяе». Адзін з удзельнікаў павінен быў адгадаць, у каго засталося «з.». Калі адгадваў, садзіўся на яго месца. Сучасныя запісы вядомы пад назвай «Шкута». *А. Ю. Лозка.*

**ЗРУБ**, драўляная канструкцыя жылых ці гаспадарчых пабудоў. Памеры З. вызначаюцца даўжынёй будаўнічага матэрыялу. Звычайна З. квадратны ці прамавугольны ў плане: у клеці — са стараной 4—6 м, у хаце — 5—8 м. Выкарыстанне замкоў (спосаб злучэння частак канструкцый) ці шул дазваляе павялічваць памеры. У нар. будаўніцтве Беларусі вядомы і інш. формы З.— 8- і 6-вугольнік (гумно, вятрак, конны млын — манеж). У залежнасці ад вуглоў З. маюць розныя канструкцыйныя вырашэнні. Каб вянцы шчыльней прылягалі адзін да аднаго, уздоўж бярвён робіцца паўкруглы паз. Раней (аб чым сведчаць археалаг. матэрыялы Бярэсця, Мінска, Віцебска і інш.) паз выбіралі зверху вянца, але гэта не аберагала З. ад вільгаці і атмасферных ападкаў. Цяпер паз выбіраюць знізу вянца, толькі ў некаторых раёнах на Пд Міншчыны можна сустрэць хаты, варыўні з пазам зверху. Вянцы злучаюцца паміж сабой і тэблямі (да 2—3 удоўж кожнай сцяны, па 2 на кожны прасценак). Для ацяплення З. імшацца, раней часам пазы цаміж вянцамі прамазвалі глінай. Колькасць вянцоў у З. залежала ад таўшчыні бярвён, прызначэння будынка (ад 4 да 20). На хаты і клеці выбіралі лепшую драўніну, перавага аддавалася хвойным пародам. На Палессі З. рабілі таксама з дубу, асіны, вольхі. На З Беларусі больш пашыраны брусы, на У — бярвенне. Каб стварыць роўную паверхню сцен унутры хаты, бярвёны з унутр. боку ачэсваюць. Калі будавалі хату, спачатку рубілі часовы З., раскладзены на некалькі невысокіх частак па 4—5 вянцоў. Так бярвенне лепш прасыхала. Потым з прасохлага бярвення хату будавалі канчаткова. З. сучасных хат маюць большыя памеры, што звязана з ускладненнем планіроўкі жылля. Пашырэнне атрымалі абшыўка З. хаты дошкамі, т. зв. *шалёўка*, і афарбоўка. *С. А. Сергачоў.*

**ЗРЭ́Б'Е**, 1) грубая кастрычая кудзеля, што аддзяляецца пры трапанні лёну, пяньці, а таксама кудзеля, атрыманая пры часанні лёну. 2) З., з р э б н і н а, палатно з нітак такой кудзелі.

**ЗУ́БЕЛЬ**, пчалярская прылада для падкурвання пчол. У некаторых мясцовасцях пашыраны назвы курэль, курач, курадымка. Уяўляла сабой палачку з накрыж надколатым або надпіленым канцом, у які зацiскалі гнілушку або кураўку (скручаную анучу). Гл. таксама *Дымакур.*

**ЗУБЛЕ́ННЕ**, від *вышыўкі;* тое, што і *абкіданне.*

**ЗЫ́БКА**, плецены або драўляны дзіцячы ложак, у якім зыбаюць, гушкаюць дзіця; даўні від народнай *мэблі*; тое, што і *калыска.*

**ЗЭ́ДЛІК**, з э д а л ь, даўні від народнай мэблі, невялікі ўслончык. Прататып З.— калодка. Рабілі З. з карэнішча ці камля з 3—4 адгалінаваннямі-ножкамі, з круглым ці квадратным сядзеннем з дошкі. Саступіў месца табурэту і ў наш час амаль выйшаў з ужытку.

**ЗЮ́ЗЯ**, персанаж беларускай міфалогіі, увасабленне холаду. З. уяўлялі ў выглядзе лысага барадатага дзеда, які ў расхрыстаным кажусе, босым хадзіў па снезе. Паводле павер'яў З. узнімаў завіруху, мяцеліцу, выклікаў сцюжу. Калі быў моцны мароз, лічылі, што З. біў доўбняй па дрэвах і бярвенні, якія бяццам бы па гэтай прычыне трашчалі. Прымхлівыя людзі верылі, што калі пералічыць імёны ўсіх лысых дзядоў у вёсцы, мароз памякчэе. У размовах з дзецьмі дарослыя часам называюць холад «зюзя».

**«ЗЯЗЮ́ЛЯ»**, традыцыйны танец-гульня. Музычны памер $^3/_4$. Тэмп умераны. Апісаны Е. Раманавым. Удзельнікі ўтваралі два процілеглыя рады. Хлопец лавіў дзяўчыну з другога рада, потым яны мяняліся ролямі, а астатнія ўдзельнікі танцавалі ў такт песні, а пры воклічы «ку-ку!» падавалі рукі тым, хто стаяў насупраць. У Зах. Беларусі М. Федароўскім зафіксавана «З.» ў чыста танцавальнай форме, што выконвалася трыма дзяўчынамі. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Пад назвамі «Кукаўка», «Ку-ку» зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на Гомельшчыне. *Ю. М. Чурко.*

**ЗЯЛЕ́НІН** Дамітрый Канстанцінавіч [21.10(2.11).1878, с. Люк Балезінскага р-на Удмурцкай АССР — 31.8.1954], савецкі этнограф, фалькларыст і дыялектолаг. Чл.-кар. АН СССР (1925), акад. Балгарскай АН (1946). Скончыў Юр'еўскі (Тартускі) ун-т (1904). З 1916 праф. Харкаўскага, з 1925 Ленінградскага ун-таў. Даследаваў этнаграфію, фальклор (частушкі, казкі) і дыялекталогію («Велікарускія гаворкі...», 1913) пераважна славянскіх, у т. л. беларускага, народаў Расіі. Аўтар прац «Руская саха, яе гісторыя і віды» (1907), «Нарысы рускай міфалогіі» (вып. 1, 1916), «Жаночыя галаўныя ўборы ўсходніх славян» (нап. 1926), «Татэмічны культ дрэў у рускіх і беларусаў» (1933) і інш., якія маюць багаты матэрыял пра побыт, абрады і вераванні беларусаў. Найбольшая колькасць звестак пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў у параўнанні і ва ўзаемасувязі з побытам і традыцыйнай культурай рускіх і ўкраінцаў змешчана ў яго кн. «Рускае (усходнеславянскае) народазнаўства» (на ням. мове, Берлін — Лейпцыг, 1927). У працах «Бібліяграфічны паказальнік рускай этнаграфічнай літаратуры пра знешні побыт народаў Расіі. 1700—1910 гг.» (1913), «Апісанне рукапісаў вучонага архіва імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства» (вып. 1—3, 1914—16) сабраў каштоўны бібліягр. матэрыял пра фальклор, побыт, культуру беларусаў і інш. усх.-слав. народаў.

*Літ.:* С а б у р о в а Л. М., Ч и с т о в К. В. Дмитрий Константинович Зеленин //Сов. этнография. 1978. № 6.

*М. Ф. Піліпенка.*

**ЗЯЛЁНЫЯ СВЯ́ТКІ**, старажытнае земляробчае свята; тое, што і *сёмуха.*

**ЗЯМЕ́ЛЬНАЕ ЗВЫЧАЁВАЕ ПРА́ВА**, гл. ў арт. *Звычаёвае права.*

**ЗЯМЛЯ́ЦТВА**, 1) прыналежнасць паводле нараджэння, жыхарства да адной мясцовасці. Зямляцкія сувязі ва ўсх. славян праяўляліся ўжо ў 2-й пал. 1 тыс. н. э. ў землях-княжаннях, насельніцтва якіх вызначалася асаблівасцямі мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры, побыту, самасвядомасці. У недатаванай частцы «Аповесці міну-

лых гадоў» аданачаецца, што асобныя землі-княжанні былі ў *палачан, дрыгавічоў, драўлян* і інш. супольнасцей. Этнанімічныя вызначэнні іх былі звязаны з асаблівасцямі тэрыторыі (зямлі), якую яны засялялі. У часы складвання тэр. Кіеўскай Русі, паліт. інтэграцыі ўлады і сацыяльнай кансалідацыі ўсходнеславян. супольнасцей зямляцкія сувязі захоўваліся. Яны ўзмацніліся ў перыяд феадальнай раздробленасці (канец 11—13 ст.), калі асобныя стараж.-рус. княствы атрымалі палітыка-юрыдычную і эканам. самастойнасць. Існавалі і больш дробныя З., што групаваліся вакол новых гарадоў — цэнтраў удзелаў (валасцей). Працэс складвання дробных зямляцкіх супольнасцей садзейнічаў узнікненню адпаведных этнанімічных вызначэнняў (на землях Беларусі — урбаністычныя этніконы «случане», «ізяслаўцы», «лукомцы», «браслаўцы», «слонімцы» і інш.).

У перыяд утварэння бел. народнасці (13—16 ст.) зямляцкія сувязі працягвалі захоўвацца ў аб'яднаннях (Полацкай і Віцебскай землях, Слуцкім, Пінскім, Клецкім княствах). Кожнае з іх характарызавалася самастойнымі, а часам і ізаляванымі эканам., юрыдычнымі, этнасацыяльнымі і культурна-бытавымі сувязямі. З 16 ст. ўтвараліся З. ў межах асобных старостваў, эканомій, паветаў і інш. Іх насельніцтва (і сяляне, і мяшчане) вызначалася адзіным мясцовым этніконам («рэчычане», «бабруяне», «мазыране», «аршанцы», «магілёўцы» і інш.). Феадальны спосаб вытворчасці з перавагай лакальных эканам. сувязей над агульна-этнічнымі або дзяржаўнымі, натуральная сістэма гаспадаркі і патэстарна-юрыдычная самастойнасць асобных тэрыторый садзейнічалі працягламу існаванню З. на землях Беларусі. Зямляцкія формы самасвядомасці часта пераважалі над агульнаэтнічнымі, асабліва ў асяроддзі сельскага насельніцтва, якое вызначала сябе лакальнымі этніконамі — назвамі тыпу «тутэйшыя» і значна радзей агульнаэтнічнымі назвамі — «беларусы», «русіны», «літвіны» і інш. Некаторае абмежаванне аўтаномных функцый З. абумоўлівалі працэсы палітыка-прававой цэнтралізацыі феадальных дзяржаў. Канчатковае знікненне іх адбылося ў эпоху капіталізму ў выніку развіцця агульнадзяржаўнага або нацыянальнага эканам. рынку, распаўсюджвання адзіных юрыдычных норм і вызвалення сялян ад прыгону. У гэты перыяд працэсы этнічнай кансалідацыі, складванне новай сацыяльнай праслойкі — нацыянальнай інтэлігенцыі, пашырэнне сферы прафесійнай культуры і актывізацыя асветніцкай дзейнасці спрыялі ўзросту нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва, што садзейнічала паступовай змене лакальных этніконаў агульным этнонімам. Зямляцкія адносіны існуюць і ў наш час як адна з першапачатковых ступеней этнічнай кансалідацыі і сацыяльна-паліт. інтэграцыі народаў СССР. 2) Аб'яднанне ўраджэнцаў адной мясцовасці, краіны ў інш. мясцовасці, краіне. У канцы 19 — пач. 20 ст. існавалі З. беларусаў у Пецярбургу, Маскве і інш. гарадах Расіі. Існуюць З. беларусаў у ПНР, ЧССР, СФРЮ, Канадзе, ЗША, Аргенціне, Англіі, Аўстраліі і інш. *І. У. Чаквін.*

**ЗЯМЯ́НЕ**, група ваеннаслужылага насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім у 16—18 ст. Былі васаламі князя ці буйнога феадала, абавязанымі служыць у іх войску, жылі ў іх маёнтках. Складаліся з розных катэгорый насельніцтва. Звычайна З. называлі *шляхту*. З 2-й пал. 16 ст. сталі паступова адрознівацца ад яе сваімі правамі: З. не мелі права голасу на шляхецкіх сходах (сеймах і сейміках), плацілі ў казну ці магнату грашовы чынш і натуральны аброк, акрамя ваеннай, выконвалі і інш. службы. У 17—18 ст. працэс дыферэнцыяцыі ўзмацніўся: заможныя З. атрымалі шляхецкія прывілеі, збяднелыя па свайму сац.-бытавому становішчу мала чым адрозніваліся ад сялян. У 18 ст. магнаты, каб павялічыць свае ўзброеныя сілы, пераводзілі ў разрад З. заможных сялян. Часта на іх ускладаліся судовыя і адміністрацыйныя функцыі ў паветах і валасцях. З. ў той час называлі і патомкаў ваеннаслужылых людзей, якія не мелі шляхецкіх правоў,— баяр путных і панцырных. Пасля далучэння Беларусі да Расіі частка З., якая даказала сваё шляхецтва, была пераведзена ў дваранства, астатнія — у катэгорыю «вольных» людзей. *І. У. Чаквін.*



Р. С. Зянькевіч.

**ЗЯНЬКЕ́ВІЧ** Рамуальд Сымонавіч (1.2. 1811, былы Свянцянскі пав. Віленскай губ.— 11.9.1868), беларускі фалькларыст і этнограф, педагог. Скончыў Віленскі ун-т (1830). Збіраў бел. нар. песні. У 1847 у час. «Athenaeum» («Атэнэум») у перакладзе на польскую мову надрукаваў «Народныя песні, сабраныя на Піншчыне і перакладзеныя Р. Зянькевічам». У зб. «Народныя песенькі пінскага люду» (Коўна, 1851) змясціў 219 нар. песень, запісаных над Пінай, Прыпяццю і Цной. Каментарыі да гэтых песень расшырыў і з дапаўненнямі апублікаваў у арт. «Пра ўрочышчы і звычаі пінскага люду, а таксама пра характар яго песні» [«Biblioteka Warszawska» («Бібліятэка Варшаўска»), 1852, т. 4, 1853, т. 1]. У артыкуле даў апісанне працоўных працэсаў, каляндарных і сямейных абрадаў, вераванняў і забабонаў. Упершыню расказаў пра старажытныя веснавы абрад куста, пахавальныя абрады, памінальны абрад «дзяды». Звяртаючыся да гісторыі засялення Палесся, абвяргаў сцвярджэнні пра тое, што ў 6 ст. да н. э. на Палессі жылі будзіны, а славяне з'явіліся там параўнаўча нядаўна. Спасылаючыся на прыведзеныя ім назвы ўрочышчаў, абрады, звычаі і вераванні, сцвярджаў, што Піншчына заселена славянамі са стараж. часоў. Цікавіўся археалогіяй, абследаваў гарадзішчы, валы, курганы на Ашмяншчыне, у Тураве, Крэве (арт. «Пра курганы і гарадзішчы Ашмянскага павета», 1848). Пісаў вершы, даследаваў польск. літаратуру, паасобныя праблемы педагогікі. Частка яго рукапіснай спадчыны зберагаецца ў Цэнтр. навук. б-цы АН Літ. ССР у Вільнюсе. *І. У. Саламевіч.*



**ІВА́Н ГАЛАВАСЕ́К**, свята ўсячэння галавы Іаана Хрысціцеля (адзначалася 29 жніўня с. ст.). У гэты дзень забаранялася есці скаромнае, а таксама ўжываць у страву круглыя плады, каб не быць падобным на Ірадыяду, якая забаўлялася галавой Іаана Хрысціцеля як яблыкам (парушэнне гэтай забароны пагражала нарывамі на целе). Верылі, што на працягу года адсечаная галава прырастае да свайго месца, але калі на І. Г. ўжываць нажы і сякеры, дык яна можа зноў адпасці, таму стараліся ў гэты дзень нічога не сячы і не рэзаць, нават хлеб ламалі рукамі ці наразалі лусты загадзя. Калі на І. Г. варылі бацвінне, то пазбягалі чырвонага, баючыся, што на працягу года ў доме пральецца чыя-небудзь кроў. На Палессі на І. Г. (Калінавага Івана) ламалі каліну і варылі кісель, каб цэлы год не балела галава. *У. А. Васілевіч.*

**ІВА́Н КУПА́ЛА**, у беларусаў і інш. еўрапейскіх народаў старажытнае зем-

ляробчае свята найбольшага росквіту жыватворных сіл прыроды, прымеркаванае да перыяду летняга сонцастаяння. Гл. *Купалле*.

**ІВЯНЕ́ЦКАЯ КЕРА́МІКА**, вырабы гаспадарчага і дэкаратыўнага прызначэння ганчароў з г. п. Івянец Валожынскага р-на. Промысел вядомы з 16 ст. Выраблялі кухонны і сталовы посуд (тэракотавы, чорназадымлены і паліваны): гаршкі, міскі, гляк, слоікі, талеркі; тэракотавую і паліваную кафлю з рэльефнымі раслліннымі, зааморфнымі, геральдычнымі выявамі. Посуд аздаблялі штампаваным, гравіраваным або лянным геаметрычным арнаментам, паліваныя вырабы — *ангобнай размалёўкай* у выглядзе кропак, завіткоў, галінак. Найбольшага развіцця І. к. дасягнула ў канцы 19 — пач. 20 ст. Працавалі майстэрні па вытворчасці посуду і кафлі, значна пашырыўся асартымент вырабаў (цукарніцы, чайнікі, маслёнкі, вазы, попельніцы, падсвечнікі і інш.). Выраблялі пераважна паліваны посуд з ангобнай размалёўкай карычневага ці белага колеру ў выглядзе прамых і хвалістых паяскоў, хваёвых лапак і інш. геаметрычных і раслінных матываў. Была пашырана вытворчасць паліванай манахромнай (жоўтай, карычневай, белай, зялёнай) кафлі з рэльефнымі выявамі раслін, кветак, адвольных кампазіцый у стылі «мадэрн». Выраблялі таксама карнізы для печаў, цацкі. Сучасная І. к. вызначаецца акруглымі мяккімі абрысамі, геаметрычным узорам — гарызантальнымі гладкімі і расчасанымі паласамі (мясцовы варыянт дэкору *фляндроўкі*), які ўкрывае выраб накшталт паласатай тканіны. У 1960 на базе ганчарнай арцелі створана фабрыка мастацкай керамікі і вышыўкі, якая ў 1979 увайшла ў аб'яднанне «Беларуская мастацкая кераміка». Калекцыі І. к. зберагаюцца ў многіх музеях БССР, у Дзярж. музеі этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе. *Я. М. Сахута.*



**Івянецкая кераміка.** Дэкаратыўная кампазіцыя «Музыкі».



**Івянецкая кераміка.** Фігурная пасудзіна-зубр.



**Івянецкая кераміка.** Посуд.

**І́ГЛІЦА**, прылада для вязання сеткавага палатна (гл. *Сеткавязанне*). У некаторых мясцовасцях пашыраны назвы чаўнок, віліца. Мае выгляд драўлянай пласцінкі, на адным канцы якой выразаны рожкі, другі — завостраны з адтулінай, т. зв. іголкай. На іголку і канец пласціны з рожкамі намотваецца нітка. Пашырана на Беларусі са старажытных часоў. У наш час выкарыстоўваецца ў ручным вырабе сеткавага палатна і для яго рамонту, а таксама для вырабу двухасноўных дываноў.

**ІГНА́ЦЬЕЎ** Руф Гаўрылавіч [7(19).9.1819, Масква — 2(14).1.1886], этнограф, гісторык, археолаг, музыказнавец. Скончыў Лазараўскі ін-т усх. моў у Маскве, курс Парыжскай кансерваторыі. Член т-ваў Маскоўскага археалагічнага, аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, Вольнага эканамічнага; гісторыі, этнаграфіі і археалогіі пры Казанскім ун-це і інш. У 1877—80 рэдактар неафіцыйнай часткі газ. «Минские губернские ведомости». Прымаў удзел у дзейнасці Мінскага губернскага статыстычнага к-та, арганізацыі выставак бел. нар. творчасці, археал. знаходак, прадметаў побыту. Раскопваў курганы на Міншчыне, склаў карту археал. помнікаў Мінскага пав. У 1880 у «Весціях таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі» надрукаваў даклады (у скарочаным варыянце) «Пра помнікі народнай творчасці ў Мінскай губерні» і «Пра помнікі старажытнасцей у Мінскай губерні», з якімі выступаў на Антрапалагічнай выстаўцы ў Маскве ў 1879, расказаў пра бел. нар. казкі, песні, легенды, павер'і, прымаўкі, запісаў 100 песень з нотамі, апісаў нар. музычныя інструменты, некаторыя археал. помнікі і інш. Аўтар арт. «Мястэчка Заслаўль ці Ізяслаў, горад нашчадкаў Рагнеды» (1878). *А. Ю. Лозка.*

**ІГРЫ́ШЧА**, народнае зборышча з танцавальна-гульнёвымі і тэатралізаванымі паказамі. Бярэ пачатак ад усеагульных увесяленняў язычніцкай абраднасці. Мае глыбокія карэнні ва ўсходнеславянскім фальклоры. Значную ролю ў вызначэнні характару І. адыгралі скамарохі.

На Беларусі пашырана ў паўн., усх. і цэнтр. зонах, дзе паняцце і сам тэрмін «І.» часта выступаюць сінонімам «вечарынак» і «вячорак». Асабліва характэрны І. для калядната часу з яго святымі (у некаторых мясцовасцях іх называюць «крывымі») вечарамі, калі можна ўсё паказваць «шыварат-навы-

варат», г. зн. у карнавалізаваным выглядзе. Таму на І. асаблівая роля належала розным паказам: карнавалізаваныя хаджэнні пераапранутых (хадзіць «у гусары», «у цыганы»); гульнёвыя паказы вяселля («Жаніцьба Цярэшкі», «Жаніцьба бахара»); парадзіраванае «пахаванне» з уваскрэсеннем у танцы, гульні, смеху («Бабёр памёр, пашлі хараніць — ажно ён сядзіць...», «ажно ён за намі бяжыць!»); інш. розныя гульні ў фанты, выбар пáры і г. д. (*«Яшчур»*, *«Халімон»*, «Зязюля»). Тэатралізаваныя паказы на І. падаюцца ў сінкрэтычным адзінстве з танцамі, славеснымі жартамі і карагодамі-гульнямі. У наш час многія элементы І. працягваюць жыць у тых рэгіёнах, дзе пауней захаваліся нар. мастацкія традыцыі, аднак прыкметна выяўляецца тэндэнцыя выцяснення І. як аўтэнтычных форм функцыяніравання нар. танцавальна-гульнёва-тэатралізаванага мастацтва арганізаванымі святочнымі выступленнямі калектываў мастацкай самадзейнасці.

*З. Я. Мажэйка.*

**ІДАЛЫ**, драўляныя, каменныя або металічныя выявы старажытных язычніцкіх багоў. Лакальныя назвы багі, балваны, каменныя бабы, куміры, стоды. Найчасцей былі антрапаморфнымі (мелі выгляд чалавека), зрэдку — зааморфнымі. Найбольш старажытныя антрапаморфныя выявы, якія прынята лічыць І., знойдзены пры раскопках паселішча позняга неаліту і ранняй бронзы (2 тыс. да н. э.) каля в. Асавец Бешанковіцкага р-на (зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР). Вядома таксама амаль 30 каменных і металічных І. 1-га — пач. 2-га тыс. н. э. (большая ж частка І. былі драўлянымі і не захаваліся да нашага часу). Звычайна каменныя І. былі вышынёй 0,6—1,2 м (металічныя — меншых памераў) з 1—4 тварамі. І. з 4 тварамі ў выглядзе слупа стаяў на поплаве Дняпра каля дарогі з Рэчыцы ў Бабруйск (не захаваўся). Каменныя І. з 3 тварамі (пад назвай «Трыглаў») выяўлены каля в. Млыны Камянецкага і Багуслаўцы Пружанскага р-наў (абодва не захаваліся). Большасць І. былі аднатварымі; найб. вядомыя І.: Слонімскі (зберагаецца ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі), Шклоўскі (пад назвай «Ёлап»; зберагаецца ў Дзярж. музеі БССР), каля в. Астрамечава Брэсцкага р-на (зберагаецца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі), на Ваўкавыскім замчышчы (зберагаецца ў Рэсп. музеі атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродне); каля в. Хажова Маладзечанскага, Чаплі Кобрынскага, Ульянавічы Сенненскага, Міжэвічы і Юхнавічы Слонімскага р-наў, каля Оршы і Клецка (усе не захаваліся). І. пад назвай «Цар Давід» у выглядзе слупа з высечаным наверсе тварам стаяў каля в. Слабодка Смалявіцкага р-на; І. у палову чалавечага росту са складзенымі на грудзях рукамі — на востраве Богінскага возера ў Браслаўскім р-не (абодва не захаваліся). Вядомы маленькія асабістыя І. з гарадзішча Пруднікі Міёрскага р-на (зберагаюцца ў Ін-це гісторыі АН БССР), з кургана каля в. Экімань Полацкага і курганоў Аршанскага р-наў (зберагаюцца ў Вільнюсе). Сярэбраныя і бронзавыя І. знойдзены ў мінулым стагоддзі ў дупле дуба ў Барысаўскім пав. (лёс невядомы). У часы язычніцтва І. былі аб'ектам пакланення: іх ушаноўвалі, ім рабілі *ахвярапрынашэнні* (часам чалавечыя), размяшчалі на свяцілішчах. Хутчэй за ўсё кожны І. быў увасабленнем пэўнага язычніцкага бога. Пасля прыняцця хрысціянства царква спрабавала прыстасаваць язычніцкія абрады да хрысціянскіх, таму вядомы выпадкі паўторнага выкарыстання І.: на іх выбівалі крыжы або надавалі ім форму крыжа. Такія І. выяўлены каля в. Даўгінава Вілейскага (стаіць на месцы), Грабаўцы і Залуззе Жабінкаўскага р-наў (абодва зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі). Значная ж частка І. пры хрышчэнні была знішчана, скінута ў вадаёмы і балоты ці закапана ў зямлю.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**ІЛЬЯ**, Ілля, старазапаветны прарок, якога ўшаноўвалі як бажаство. Паводле біблейскага падання, тварыў цуды і жывым узнёсся на неба ў вогненнай калясніцы. З хрысціянізацыяй Русі вобраз І. зліўся з язычніцкім богам усх. славян *Перуном*, увабраўшы ў сябе яго функцыі і рысы. У міфалогіі, даўніх вераваннях і фальклоры беларусаў І.— распарадчык дажджоў і



Ігліцы.

павальніц, апякун земляробства, абаронца ад нячыстай сілы, але разгневаны можа наслаць засуху і град. Пра І. спяваецца ў валачобных песнях: ён «па межах ходзіць, жыта родзіць», прыходзіць з доўгачаканым «новым хлебам» («На Ілью на лапату налью»). У нар. календары свята І. (20 ліп. с. ст.) азначала канец лета («Прыйшоў Ілля, то й лета няма») і пачатак пахаладання, дажджоў («Ілля нарабіў гнілля», «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілья — апалі два»).

**ІМБРЫЧАК**, чайнік, ганчарны выраб; гліняная пасудзіна для заваркі чаю. Рабілі з накрыўкай, носікам і ручкай; палівалі. Вытворчасць І. пашырылася ў канцы 19 — пач. 20 ст. пераважна ў гарадскіх і мястэчковых ганчарных цэнтрах пад уплывам аналагічных форм фабрычнага посуду (у параўнанні з ім былі больш таннымі).

**ІМІГРÁЦЫЯ** насельніцтва (ад лац. immigro усяляюся), уезд у краіну на пастаяннае або часовае жыхарства грамадзян іншых краін. Гл. ў арт. *Міграцыя* насельніцтва.

**ІМШÁНІК**, рублепае імшанае ўцепленае памяшканне для зімоўкі пчол. Вуллі ўстанаўлівалі на папярэчныя лягары (бэлькі, леглі), урубленыя ў сцены І. на вышыні 30—50 см ад



Шклоўскі ідал. 10 ст.

падлогі. У І. захоўвалі і пчалярскі інвентар. Найб. пашыраны на Беларусі ў 19— пач. 20 ст. У сувязі з удасканаленнем канструкцыі вулляў, іх уцяпленнем І. выходзяць з ужытку.

**ІМЯНАРАЧЭ́ННЕ**, абрад урачыстай рэгістрацыі нованароджаных. Праводзіцца ў аддзелах ЗАГС, сельскіх (пасялковых) Саветах нар. дэпутатаў. Увайшоў у побыт працоўных рэспублікі з 1970-х г. (узнік у 1920-я г., быў вядомы пад назвай *акцябрыны*). У абрадзе І. ўдзельнічаюць *названыя бацькі*, прадстаўнікі грамадскасці і працоўных калектываў. Элементы абраду: сустрэча бацькоў, афіцыйная частка дзярж. рэгістрацыі, якая ўключае ўступнае слова афіцыйнай асобы, замацаванне акта пра нараджэнне дзіцяці бацькамі і названымі бацькамі, выступленне прадстаўнікоў грамадскасці, уручэнне пасведчання пра нараджэнне дзіцяці і вінша-

ванні бацькоў і заключная частка — фатаграфаванне і ўручэнне падарункаў. Бацькам уручаецца абрадавая атрыбутыка: медаль, памяткі, кніжка «Летапіс дзіцяці» і інш. У некаторых населеных пунктах у гонар нованароджанага бацькі садзяць дрэва. Выкарыстоўваюцца ў абрадзе І. традыцыйныя элементы радзіннай абраднасці беларусаў: у час урачыстасці ўручаюцца бацькам новаиароджанага хлопчыка вянкі з дубовых галінак і каласкоў пшаніцы, бацькам дзяўчынкі — з каліны, вішні і каласкоў пшаніцы. Абрад І. часта бывае састаўной часткай свят сям'і, вуліцы, дома, вёскі. *Т. І. Кухаронак.*

**ІНВЕНТАРЫ** (ад лац. inventarium вопіс), вопісы ўладанняў феадалаў у 16—18 ст. Вядомы поўныя і кароткія І. Поўныя складаліся з трох частак. У 1-й змяшчаліся звесткі пра жылыя і гасп. пабудовы феад. двара, іх архітэктуру і планіроўку, пра маёмасць, гаспадарку (памеры пашы, пасеваў па культурах, пералік жывёлы, апісанне млыноў, вінакурняў і інш. прадпрыемстваў, корчмаў і г. д.), крыніцы і памеры прыбыткаў. У 2-й апісваліся воласці па вёсках, мястэчкі і гарады па вуліцах, якія ўваходзілі ў склад феад. уладання; пералічваліся ўсе двары, паказвалася колькасць ворнай зямлі, сенажацей, прысядзібных участкаў. У 16—1-й пал. 17 ст. перапіс валасцей праводзіўся па *валоках*, дзе не было *валочнай памеры — па службах*. Пры апісанні кожнай валокі называліся ўсе сяляне, якія карысталіся яе доляй. У 2-й пал. 17—70-я г. 18 ст. пераважаў павалочнападворны перапіс, побач з валокамі вылучаліся і сялянскія двары — *дымы*. У І. гэтага часу ёсць звесткі пра гаспадара і працаздольных членаў яго сям'і (мужчын), пра рабочую жывёлу, прыгоннік. У 3-й частцы пералічваліся розныя віды феад. павіннасцей, памеры падаткаў і тэрміны іх платы; умовы карыстання пашаю, вадаёмамі, ляснымі ўгоддзямі. Найбольш падрабязныя І. складзены ў апошняй чвэрці 18 ст.: апісаны кожны двор, называюцца ўсе члены сям'і гаспадара, іх узрост, пол і г. д.; памеры надзелу, угоддзі, пасевы, рабочая і прадукцыйная жывёла, віды і памеры павіннасцей, адыход членаў сям'і на заработкі, уцёкі сялян, рамесныя прафесіі сялян і гараджан, часам наёмныя работнікі ў сялян.

Кароткія, ці няпоўныя, І. змяшчалі звесткі толькі пра панскую гаспадарку ці пра воласць. Разнавіднасцю іх былі т. зв. берчакі — пералік сялянскіх гаспадарак з паказам надзелу, натуральнага і грашовага чыншу. І. складаліся па ініцыятыве феадалаў і для іх патрэб, рэгулявалі іх узаемаадносіны з насельніцтвам, а таксама паміж зямельным уласнікам і фактычным уладальнікам. І.— найважнейшая крыніца па гісторыі аграрных адносін, сельскай гаспадаркі, гарадоў і мястэчак, рамяства, прамысловасці і гандлю; маюць каштоўнасць для этнаграфіі, дэмаграфіі, мовазнаўства, гісторыі архітэктуры. *П. Р. Казлоўскі.*

**ІНКРУСТА́ЦЫЯ** (лац. incrustatio ад incrusto пакрываю чым-небудзь), від дэкарыравання вырабаў узорамі ці сюжэтнымі кампазіцыямі з кавалачкаў дрэва, косці, металу, перламутру, якія ўразаюцца ў паверхню вырабаў і адрозніваюцца ад яе колерам ці матэрыялам; творы, выкананыя ў гэтай тэхніцы. Папырана І. дрэвам па дрэве (інтарсія), металам па метале (насечка), каменем па каменю; часта выконваецца інш. матэрыялам, чым матэрыял прадмета, які ўпрыгожваецца.

І. выкарыстоўвалі ў скульптуры Стараж. Усходу і антычнасці. У 12—13 ст. на Беларусі была пашырана І. залатымі і сярэбранымі пласцінамі па жалезе і медзі, косцю па дрэве (наканечнік кап'я 12 ст., інкруставаны серабром, знойдзены на Мінскім замчышчы). Часам насечка спалучалася з чарненнем. У 17—18 ст. І. аздаблялі зброю, мэблю, посуд, царкоўнае начынне і інш. Беларускія майстры-інкрустатары працавалі ў Маскоўскай дзяржаве пры царскім двары і ў Аружэйнай палаце, дзе аздаблялі мэблю, інкруставалі перламутрам ці насякалі золатам і серабром шаблі, мячы, пішчалі і інш. зброю. У 18—19 ст. майстры аздаблялі І. мэблю для панскіх сядзіб, палацаў (у Дзярж. маст. музеі



**Інкрустацыя.** Фрагмент сакрэтніка. 18 ст. Дрэва.

БССР зберагаецца гасцінны гарнітур сярэдзіны 19 ст., упрыгожаны інтарсіяй). З 1950-х г. некаторыя мэблевыя прадпрыемствы Беларусі выпускаюць мэблю, аздобленую І. паводле матываў бел. нар. арнаменту. У гэтай тэхніцы працуюць самадзейныя мастакі Дз. Сакажынскі, А. Слізькаў, сям'я Гапакоў і інш. (мэбля, пано, шкатулкі, розныя сувенірныя вырабы). *Я. М. Сахута.*

**ІНСТЫТУ́Т МАСТАЦТВАЗНА́ЎСТВА, ЭТНАГРА́ФІІ І ФАЛЬКЛО́РУ** Акадэміі навук БССР. Створаны ў Мінску ў 1957 на базе сектара этнаграфіі і фальклору Ін-та гісторыі АН БССР і сектара мастацтва Ін-та л-ры АН БССР. Аддзелы (1988): тэатра; кіно і тэлебачання; муз. мастацтва; выяўленчага мастацтва; гісторыі бел. культуры; стараж.-бел. культуры; этнаграфіі; фальклору; славістыкі. Асн. напрамкі навук. дзейнасці: даследаванне культуры бел. народа, гістарычны вопыт і актуальныя праблемы сучаснага развіцця; вывучэнне тэорыі і гісторыі вуснапаэтычнай творчасці беларусаў у іх узаемасувязях з паэтычнай творчасцю ўсх. славян, побыту і антрапалогіі насельніцтва рэспублікі; даследаванне помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.

У галіне этнаграфіі распрацоўваліся пытанні паходжання і этнічнай гісторыі бел. народа, якія раскрыты ў калектыўнай працы «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985) і ў манаграфіі М. Я. Грынблата «Беларусы: Нарысы паходжання і этнічнай гісторыі» (1968). Гіст.-этнагр. працэсы адлюстраваны ў даследаванні «Беларусы» ў кн. «Народы Еўрапейскай часткі СССР» (серыя «Народы свету»; т. 1, 1964), асн. тэндэнцыі і навук. плыні ў бел. этнаграфіі — у манаграфіях В. К. Бандарчыка «Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.» (1964), «Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст.» (1970), «Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі» (1972) і інш. Апублікаваны манаграфіі, прысвечаныя дзейнасці вядомых этнографаў і фалькларыстаў М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава, А. К. Сержпутоўскага (Бандарчык, І. Г. Чыгрынаў, А. С. Фядосік). Земляробчая тэхніка беларусаў, жыллё, адзенне, абутак даследаваны ў калектыўных манаграфіях «Беларускае народнае жыллё» (1973), «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў» (1974), «Беларускае народнае адзенне» (1975), «Быт беларускіх сялян у партызанскім краі» А. І. Залескага (1960), «Матэрыяльная культура беларусаў» Л. А. Малчанавай (1968) і інш. Вытворчая культура і традыцыйныя формы працоўнай дзейнасці прааналізаваны ў калектыўнай манаграфіі «Промыслы і рамёствы Беларусі» (1984), у кнігах «Народныя дрэваапрацоўчыя промыслы Беларусі (1917—1941 гг.)» В. С. Цітова (1976), «Беларускае народнае ткацтва» Г. М. Курыловіч (1981), «Беларускае народнае ганчарства» С. А. Мілючэнкава (1984), «Рыбалоўства ў Беларусі» І. М. Браіма (1976), «Бортніцтва ў Беларусі» (1980) і «Занятак здаўна высакародны» (1987) У. С. Гуркова і С. Ф. Цярохіна, «Паляўніцтва ў Беларусі» (1986) і «У фокусе канкрэтнага факта. Праўда і мана пра ап'яняльныя напіткі» (1988) Цярохіна і інш. У даследаваннях па матэрыяльнай культуры, промыслах і рамёствах распрацавана тыпалогія этнагр. з'яў, праводзіцца іх картаграфіраванне і параўнальнае вывучэнне. Пытанні этнагр. раянавання даследаваны В. С. Цітовым у манаграфіі «Гісторыка-этнаграфічнае раянаванне матэрыяльнай культуры беларусаў. XIX — пачатак XX ст.» (1983). Распрацаваны метадалагічныя і навук. метадычныя асновы Бел. дзярж. музея нар. архітэктуры і побыту, праводзіцца работа па вывучэнню, ахове і папулярызацыі помнікаў традыцыйна-бытавой культуры («Гісторыка-этнаграфічныя

рэгіёны ў экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту» Цітова, 1982; калектыўны дапаможнік «Помнікі этнаграфіі: Методыка выяўлення, апісання і збірання», 1981; альбом «Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік» І. П. Загрышава і Мілючэнкава, 1982, і інш.). Шэраг прац прысвечаны вывучэнню рэлігійных вераванняў, сучаснай абраднасці, нар. медыцыны (калектыўныя працы «Пытанні рэлігіі і атэізму», 1960 і «Святы і абрады ў Беларускай ССР», 1988; «Народная медыцына Беларусі», 1969, «Знахарства», 1971 і «Забабоны і прыкметы», 1975 Л. І. Мінько). Сучасныя этнасацыяльныя і этнакультурныя працэсы прааналізаваны ў калектыўных манаграфіях: «Змены ў побыце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі» (1976), «Змены ў побыце і культуры гарадскога насельніцтва Беларусі» (1976), «Этнічныя працэсы і лад жыцця (на матэрыялах даследавання насельніцтва гарадоў БССР)» (1980) і інш. Сучасныя этнадэмаграфічныя працэсы даследаваны ў манаграфіі «Міграцыя насельніцтва ў гарады і этнічныя працэсы» Г. І. Каспяровіч (1985). Сумесна з укр. этнографамі даследаваны этнічная гісторыя, культура і побыт насельніцтва бел.-укр. Палесся; на гэтых матэрыялах падрыхтаваны 2 манаграфіі («Грамадскі, сямейны быт і духоўная культура насельніцтва Палесся», 1987 і «Палессе. Матэрыяльная культура», 1988).

У галіне фалькларыстыкі даследчая работа праводзіцца ў наступных аспектах: збіранне вусна-паэтычных твораў, іх сістэматызацыя і вывучэнне сучасных фальклорных працэсаў; выданне нар. паэзіі ў акадэмічным шматтомным зборы бел. вусна-паэтычнай творчасці і навук.-папулярных выданнях; даследаванне гісторыі і тэорыі бел. фальклору; параўнальнае вывучэнне нар. творчасці славян. Праблемы бел. эпасу асвятляліся ў працы «Беларускі эпас» (1959). Найб. поўны збор твораў перыяду вайны ў кн. «Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны» (1961). Гісторыя бел. фальклору ад стараж. часоў да 1960-х г. даследавана ў калектыўнай манаграфіі «Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць. Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне» (1967). Заканчваецца выданне адной з найбольш поўных публікацый бел. фальклору — шматтомнага навук. выдання *«Беларуская народная творчасць»* (Дзярж. прэмія БССР 1986).

Асноўныя заканамернасці і напрамкі развіцця бел. фальклору, актуальныя праблемы гісторыі і тэорыі нар. творчасці, спецыфікі жанраў даследаваліся ў манаграфіях «Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі» К. П. Кабашнікава (1969); «Антырэлігійныя матывы ў беларускім фальклоры» (1963), «Беларуская народная сатырычная проза» (1969), «Трапным народным словам» (1971), «Развіццё беларускай савецкай фалькларыстыкі» (1977), «Праблемы беларускай народнай сатыры» (1978), «Народная паэзія барацьбы» (1981), «Беларуская савецкая фалькларыстыка» (1987) Фядосіка; «Беларуская частушка. Пытанні генезісу жанру» (1971), «Да народных вытокаў» (1986) І. К. Цішчанкі; «Купальскія песні» А. С. Ліса (1974); «Вяршаваныя жанры беларускага дзіцячага фальклору» (1976), «Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя» Г. А. Барташэвіч (1985); «Зімовая паэзія беларусаў» А. І. Гурскага (1980); «Беларуская народная балада» Л. М. Салавей (1978); «Беларускія сацыяльна-бытавыя песні» Г. А. Пятроўскай (1982); «Усходнеславянская гумарыстычная песня» У. А. Васілевіча (1979). Выйшлі ў свет вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ: «Нарысы па беларускаму фальклору» Кабашнікава (1963), «Беларуская народна-паэтычная творчасць» (калектыў аўтараў, 1979), «Беларускі фальклор. Хрэстаматыя» (складальнікі Кабашнікаў, Ліс, Фядосік, Цішчанка, 1970, 1977, 1985).

Антраполагі вывучаюць фізічны тып мінулага (па выніках раскопак) і сучаснага насельніцтва Беларусі, біясацыяльныя заканамернасці фарміравання антрапалагічнага саставу, генадэмаграфічную структуру папуляцый («Нарысы па антрапалогіі Беларусі», 1976, «Антрапалогія беларускага Палесся», 1978, «Біялагічнае і сацыяльнае ў фарміраванні антрапалагічных асаблівасцей» І. І. Салівон, Л. І. Цягака, А. І. Мікуліча, 1981; «Экалагічныя аспекты ў антрапалагічных даследаваннях на тэрыторыі БССР» Цягака, 1982; калектыўная праца «Праблемы сучаснай антрапалогіі», 1983 і інш.).

У галіне выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і архітэктуры распрацоўваюцца праблемы гісторыі і сучасныя тэндэнцыі развіцця бел. выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, архітэктуры. Даследуюцца асаблівасці станаўлення і развіцця асобных жанраў мастацтва: бел. жывапіс 19 ст., узаемасувязі бел. выяўленчага мастацтва з мастацтвам суседніх народаў, сінтэз мастацтваў у бел. архітэктуры, нар. прыкладное мастацтва Сав. Беларусі, бел. сатырычная графіка, бел. манументальнае мастацтва, драўлянае дойлідства, мастацкая разьба па дрэве і інш. Выдадзены кнігі: «Выяўленчае мастацтва Беларусі дакастрычніцкага перыяду» (1969) і «Народна-прыкладное мастацтва Беларусі (ад першабытнага грамадства да 1917 г.)» (1972) М. С. Кацара; «Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX ст.» (1974) і «Жывапіс Савецкай Беларусі (1917—1975 гг.)» (1979) Л. Н. Дробава; «Беларуская графіка 1917—1941 гг.» (1975), «Беларуская кніжная гравюра XII—XVIII стагоддзяў» (1984) В. Ф. Шматава; «Беларуская кніжная графіка 1917—1941» В. В. Церашчатавай (1978); «Дэкарацыйнае мастацтва музычнага тэатра БССР» П. А. Карнача (1973); «Народная драўляная скульптура Савецкай Беларусі» А. К. Лявонавай (1977); «Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.)» і «Беларускае мастацкае шкло XIX—пачатак XX ст.» М. М. Яніцкай (1977 і 1984); «Народная разьба па дрэву» (1978) і «Беларуская народная кераміка» (1987) Я. М. Сахуты; «Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці» (1984) і інш. Найважнейшая праца 1970—80-х г. — калектыўная 6-томная «Гісторыя беларускага мастацтва» (т. 1, 1987; т. 2, 1988). Вывучаюцца асн. тэндэнцыі развіцця арх.-планіровачнай структуры гарадоў Беларусі: «Архітэктура Магілёва. З гісторыі планіроўкі і забудовы горада» (1973) і «Архітэктура Віцебска» (1980) Т. І. Чарняўскай, «Архітэктура палацава-сядзібных ансамбляў Беларусі. Другая палова XVIII—пачатак XIX ст.» А. М. Кулагіна (1981), «Помнікі Слоніма» В. Б. Караткевіч, Кулагіна (1983), «Помнікі архітэктуры Мінска XVII — пачатку XX ст.» Чарняўскай і А. Ю. Пятросавай (1984) і інш.

У галіне музычнага мастацтва вывучаліся заканамернасці развіцця бел. музычнай культуры, распрацоўваліся пытанні гісторыі музычнага тэатра і адукацыі ў рэспубліцы («Беларускі музычны тэатр» Б. С. Смольскага, 1963; «Музычная адукацыя ў Беларусі» В. П. Масленікавай, 1980, і інш.), праблемы нац. вытокаў, спецыфікі і жанравага зместу бел. прафесійнай музыкі («Беларуская савецкая опера», 1967 і «Беларуская кантата і араторыя», 1987 Г. Р. Куляшовай; «Беларуская сімфонія» Т. А. Дубковай, 1974; «Беларускі фартэпіянны канцэрт» І. Дз. Назінай, 1977). Праблемы опернай драматургіі асветлены ў кнігах Куляшовай «Пытанні драматургіі оперы», 1979, «Кампазіцыя оперы», 1983; пытанні ладу, рытмікі, мелодыкі бел. нар. музыкі — у манаграфіях В. І. Ялатава «Ладавыя асновы беларускай народнай музыкі», 1964, «Рытмічныя асновы беларускай народнай музыкі», 1966, «Меладычныя асновы беларускай народнай музыкі», 1970, і інш. Рэгіянальныя сістэмна-тыпалагічныя асаблівасці бел. традыцыйнага песеннага фальклору даследаваны ў кнігах «Песенная культура Беларускага Палесся», 1971, «Песні беларускага Паазер'я», 1981 і «Песні Беларускага Палесся», вып. 1—2, 1981—84 З. Я. Мажэйкі. Праведзена комплекснае вывучэнне мелодыкі песень усх. славян («Песні ўсходнеславянскай агульнасці» Ялатава, 1977). Сінкрэтычнаму адзінству абраду і песень прысвечана праца Г. В. Таўлай «Беларускае Купалле: Абрад, песня», 1986; вывучэнню нар. інструментаў — кнігі Назінай «Беларускія народныя музычныя інструменты: Самагучальныя, ударныя, духавыя», 1979 і «Беларускія народныя

музычныя інструменты: Струнныя», 1982. Бел. нар. танцы даследаваны ў працах Ю. М. Чурко «Беларускі сцэнічны танец», 1969 і «Беларускі народны танец», 1972; каляндарна-песенная культура — у манаграфіі «Каляндарна-песенная культура Беларусі: Вопыт сістэмна-тыпалагічнага даследавання» Мажэйкі, 1985.

У галіне тэатральнага мастацтва даследаваны асн. этапы гісторыі бел. тэатра ад яго ўзнікнення да нашых дзён, працэсы маст. сцэнічнай творчасці, нац. драматургіі, нар. самадзейнага тэатра, пастаноўкі бел. драм. твораў на сцэнах тэатраў народаў СССР і інш. Найбуйнейшая праца ў галіне тэатразнаўства — 3-томная «Гісторыя беларускага тэатра» (1982—87, калектыў аўтараў пад кіраўніцтвам У. І. Няфёда), яго манаграфіі «Тэатр у вогненныя гады» (1959), «Сучасны беларускі тэатр (1946—1959)» (1961), «Станаўленне беларускага савецкага тэатра. 1917—1941» (1965; Дзярж. прэмія БССР 1966), манаграфіі «Беларуская савецкая драма» (кн. 1—2, 1969—72), «Беларуская драматургія ў тэатрах народаў СССР» (1972) А. В. Сабалеўскага; «Тэатральная самадзейнасць Савецкай Беларусі» (1972) і «Якуб Колас і беларускі тэатр» (1975) С. А. Пятровіча; «Купалаўскія вобразы на беларускай сцэне» Т. Я. Гаробчанкі (1976); «На сцэне — неўміручасць подзвігу» Р. Б. Смольскага (1982) і інш.

У галіне кіназнаўства і тэлебачання даследаваліся праблемы станаўлення і развіцця бел. кінамастацтва і тэлебачання, спецыфікі экранізацыі твораў мастацкай літаратуры, дзейнасць асобных акцёраў, рэжысёраў, аператараў: «Гісторыя беларускага кіно» (1969—70, кіраўнік аўтарскага калектыву А. В. Красінскі); «Тэлебачанне як мастацкая сістэма» В. Ф. Нячай (1981); «Беларускія акцёры ў кіно» Красінскага, 1973, і інш. Выдадзены вучэбны дапаможнік — «Асновы кінамастацтва» Нячай і Г. В. Ратнікава (1978, 1985). Даследуюцца пытанні развіцця бел. кіно і тэлебачання на сучасным этапе. Важнейшыя тэндэнцыі развіцця розных галін бел. сав. культуры асветлены ў манаграфіі «Мастацкая культура Беларусі на сучасным этапе» С. В. Марцэлева (1978).

У ін-це падрыхтаваны да друку 7-томны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (1984—88). Створаны *Музей старажытнай беларускай культуры* ІМЭФ АН БССР. Вядуцца даследаванні па тэмах «Гарады і вёскі Беларусі» і «Помнікі мастацкай культуры Беларусі». Праведзены шэраг міжнар., усесаюзных і рэспубліканскіх навук. канферэнцый. *А. С. Фядосік.*

**ІНТЭГРА́ЦЫЯ** (лац. integratio аднаўленне, папаўненне) у этнаграфіі, від *этнічных працэсаў*; зближэнне, аб'яднанне ўжо сфарміраваных этнасаў у эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай, ідэалагічнай і культурнай сферах. Культурная І. абумоўлівае ўзнікненне ў кантактуючых народаў пэўнага культурнага адзінства пры захаванні асноўных этнічных рыс культуры, мовы, самасвядомасці. Характар працэсаў І. залежыць ад сацыяльна-эканамічных адносін і грамадска-палітычнага ладу грамадства. Выдзяляюць І. кансацыяцыйную, характэрную для ўзаемадзеяння раўнапраўных у паліт. адносінах народаў; сімбіёзную — аб'яднанне залежных паміж сабой этнічных супольнасцей; сегрэгацыйную — аб'яднанне палітычна нераўнапраўных этнасаў. У адпаведнасці з маштабамі дзейнасці І. ажыццяўляецца на міжэтнічным (міжнацыянальным), агульнадзяржаўным і міждзяржаўным узроўнях.



**Інтэр'ер хаты.** Канец 19 — пачатак 20 ст. Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

У розныя гістарычныя перыяды актыўнасць і маштабы інтэграцыйных працэсаў вызначаліся ўзроўнем развіцця палітычных, эканамічных, сацыяльна-класавых, ідэалагічных і інш. фактараў. На позніх этапах першабытнаабшчыннага ладу і ў дакапіталіст. класавых грамадствах асн. інтэгруючую ролю выконвалі палітычныя інстытуты — агульнаплемянныя ці агульнадзяржаўныя органы ўлады. Напрыклад, у 9—10 ст. асноўным фактарам І. і *кансалідацыі* ўсх. славян з'яўлялася дзярж., сацыяльна-палітычнае аб'яднанне насельніцтва Полацкай, Турава-Пінскай, Кіеўскай, Чарнігава-Северскай, Наўгародскай, Пскоўскай і інш. зямель у раннефеадальную дзяржаву Кіеўскую Русь. Палітычнае аб'яднанне часткі старажытнарус. і балцкага насельніцтва ў складзе Вял. кн. Літоўскага садзейнічала ў канцы 13—16 ст. этнічнай кансалідацыі бел., укр. і літ. народнасцей і іх міжэтнічнай І., якая адбілася пераважна на культуры і ладзе жыцця гараджан і феадалаў. У час уваходжання бел., укр. і літ. зямель у Рэч Паспалітую (2-я пал. 16— канец 18 ст.) характар працэсаў І. змяніўся, што прывяло да змены ў культуры, ладзе жыцця, мове, самасвядомасці беларусаў, літоўцаў і большай часткі ўкраінцаў і ў канчатковым выніку — да *асіміляцыі* (паланізацыі) некаторых груп феадалаў, шляхты, гараджан і часткова сялян. У перыяд капіталізму працэсы І. ўзмацняюцца эканам. і ідэалагічнымі фактарамі. Напрыклад, у Расійскай імперыі ў 2-й пал. 19— пач. 20 ст. ў выніку складвання агульнарасійскага эканам. рынку і вялікадзяржаўнай палітыкі царызму ўзмацніліся працэсы русіфікацыі нацыянальных меншасцей Расіі, у т. л. і беларусаў.

На сучасным гістарычным этапе І. характэрна і для капіталістычнага, і для сацыялістычнага грамадстваў, аднак яна адрозніваецца па сваёй сацыяльна-эканам. прыродзе, формах, метадах, а таксама па эканамічных, палітычных, ідэалагічных і культурных аднаках. У СССР і інш. сацыялістычных дзяржавах адзін з галоўных вынікаў І.— інтэрнацыяналізацыя, якая характарызуе культуру, лад жыцця і грамадскую самасвядомасць народаў. *І. У. Чаквін.*

**ІНТЭР'ЕР ХА́ТЫ,** унутраная прастора жылога памяшкання. Уключае канструкцыю і аб'ёмныя формы ўнутранага памяшкання, яго структуру, мэбліроўку, асвятленне, расстаноўку хатніх рэчаў. Разнастайныя прадметы ўжытку, начынне, падсобны інвентар, *мэбля*, тканіны, харчовыя прыпасы займалі ў сістэме інтэр'ера сваё месца, утвараючы паміж сабою і ў адносінах да асобных частак хаты функцыянальную і кам-

пазіцыйную ўзаемасувязь. Рэканструкцыі інтэр'ера паводле археалагічных, пісьмовых, этнагр. крыніц належыць важнае значэнне пры вывучэнні гаспадарчага ўкладу, культуры і паўсядзённага побыту беларусаў са старажытных часоў. Да 1860—70-х г. нізкаяя хаты ў большасці былі курнымі, з 2—3 невялікімі валакавымі акенцамі (высякалі ў двух суседніх вянцах; гл. таксама ў арт. *Акно*), якія на ноч звычайна зачынялі знутры драўлянымі засаўкамі. *Дзверы* (памерам у сярэднім 145×100 см) рабілі з колатых і апрацаваных стругам цясін, яны паварочваліся ў драўляных гнёздах. Справа або злева ля ўваходу размяшчалася глінабітная курная *печ* без коміна. Каля печы знаходзіўся *качарэжнік*, дзе быў састаўлены пячны інвентар — качарга, вілкі, чапяла і інш. У некаторых месцах (на Палессі) вусце печы выходзіла ў сенцы, дзе ўладкоўваўся гаспадарчы закутак і куды выносіліся пячны інвентар, частка посуду і інш. рэчы хатнягa ўжытку. Над вусцем печы (пад столлю) замацоўвалася жэрдка (перасоўка), на якой сушылі адзенне, тканіну. У верхніх вянцах зруба ці ў столі бліжэй да сярэдзіны хаты рабілі адтуліну (верхнік) для дыма. Супраць печы каля ўваходу размяшчаўся гаспадарчы вугал («бабін кут», мыцельнік), дзе каля дзвярэй стаяла кадушка з вадою (вадзянка), а на лаве — драўляныя вёдры, даёнка, карцы, сальніца, бельчык і інш. На сцяне вісела кухонная *паліца* з посудам, побач — лыжачнік (драўляная планка з гнёздамі для лыжак), каля дзвярэй на кругу — паўсядзённая верхняя вопратка (світа, бурнос, кажух, курта). Каля вугла печы, звернутага ўнутр памяшкання, знаходзіўся канёвы стоўб (конь), што служыў апорай для спальнага памосту. Частку памяшкання ад печы да тарцовай (кутняй) сцяны займаў спальны памост — *пол*. На ім ляжалі напханы сенам ці саломай сяннік, падушкі, посцілкі; часам памост падзяляўся на дзве часткі ўзорным тканым полагам. Вышэй на ўзроўні лежака печы быў больш вузкі пол, або *палаці*. Пад столлю ўздоўж сцен мацавалі на дзве паралельныя тонкія жэрдкі — грады, на якіх сушылі лучыну, ляжалі прылады ткацтва, кудзелі ільну, маткі нітак, лыка для лапцей, аўчыны і інш. Месца пад памостам (падполле) часам перагароджвалі на два адсекі, дзе захоўваліся гародніна, некаторыя прадметы ўжытку. Ніжэй вокнаў (амаль на ўсю даўжыню сцен) ставілі *лавы*. На скрыжаванні лаў, на покуці ставілі хлебную дзяжу — сімвал дастатку і дабрабыту. Покуць (красны кут) — найбольш шаноўнае месца ў хаце, асвечанае ўстойлівай традыцыяй духоўнага жыцця. Яна выконвала важную ролю ў паўсядзённых звычаях і абрадах. На покуці развешваліся абразы, убраныя ўзорнымі ручнікамі (набожнікамі), пучкі асвечаных жытнёвых каласоў і траў, да столі падвешваўся *павук*. Нярэдка абразы памяшчалі ў *бажніцу*. Найбольш устойлівая сувязь у структуры інтэр'ера — размяшчэнне покуці па дыяганалі ад печы. Гэты звычай быў уласцівы ўсім усх.-слав. народам і адпавядаў народным уяўленням пра структуру сусвету. Покуць сімвалічна атаясамлівалася з У і Пд, у той час як процілеглы кут (дзе стаяла печ) — з З і Пн. На покуці стаяў засланы абрусам *стол*, на ім звычайна пакідалі хлеб, прыкрыты ручніком ці абрусам. За абедам у будні дзень абрус здымалі, і ўся сям'я садзілася за стол. На покуці займаў месца гаспадар, каля яго паслядоўна па старшынству інш. члены сям'і. Сярод мэблі, апрача лаў і паліцак, шырока ўжываліся *ўслоны, зэдлікі*, архаічнай формы табурэты, дзіцячыя стойкі, хадуны, розных канструкцый *калыскі* і інш. *Падлога* ў хатах была глінабітная ці земляная; драўляная сустракалася на Пн Беларусі і Палессі. Часам драўляную падлогу насцілалі толькі каля кутняй сцяны. У зімовы час сялянская хата ператваралася ў рамесную майстэрню. У доўгія вечары пры святле *лучніка*, светача ці *каганца* тут рабілі лыжкі і посуд, плялі лапці і розныя ёмістасці, пралі, ткалі, шылі адзенне, вышывалі. Ля кутняй сцяны ці бліжэй да парога паміж покуцццю і «бабіным кутом» ставілі *кросны*.



**Інтэр'ер хаты.** Покуць. Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

Сялянскае жыллё феадальнай эпохі характарызавалася слабай структурнай размежаванасцю, скляпеністай формай столі, наяўнасцю архаічнай глінабітнай або каменнай курнай печы ці нават адкрытага ачага (вогнішча), над якім шырокім вусцем звешвалася вылужная труба (дымнік, каптур, кузуб). Кожны рэгіён вызначаўся сваімі прыватнымі асаблівасцямі.

Пасля адмены прыгоннага права адбыліся прыкметныя змены ў нар. побыце і культуры, што адбілася і на арганізацыі сялянскага жылля. Курныя печы паўсюдна замянілі на «чыстыя», ці «белыя», з дымаходам, нярэдка з камінкам, на якім па вечарах палілі асмол ці лучыну. Павялічыліся памеры вокнаў з зашклёнымі рамамі; падлогу насцілалі цёсам ці дошкамі, скляпеністая столь саступіла месца больш сучаснай гарызантальнай. Замест спальнага пола (ці разам з ім) выкарыстоўвалі драўляныя *ложкі*. Паступова зніклі палаці. Ля кутняй сцяны ставілі *куфар*, які замяніў сабой традыцыйны *кубел*. Значную ролю ў мастацкім афармленні І. х. адыгрывалі прадметы ўзорнага ткацтва *(посцілкі, дываны, абрусы, ручнікі)*. Сцены хат у Зах. і Цэнтр. Беларусі нярэдка склюдавалі знутры, што давала магчымасць больш поўна выявіць натуральную фактуру дрэва і яго дэкаратыўныя ўласцівасці, у Панямонні і на Палессі — звычайна бялілі, часам толькі столь і верхнюю частку сцен, а асноўная плошча захоўвала свой натуральны выгляд; эстэтычнае і практычнае спалучалася тут у розных варыянтах. У Падняпроўі і Паазер'і хаты, як і раней, будавалі з круглых бярвён, якія на стыках удоўж пазоў замазвалі знутры глінай або тынкавалі па ўсёй плошчы. Мэбліроўка і размяшчэнне разнастайных прадметаў ужытку ў хаце ў многім залежалі ад памераў і структуры жылля і яго суадносін з падсобнымі памяшканнямі — *сенцамі, каморай, клецю, варыўнёй*. У пяцісценцы (тыпу хата + хата + сенцы) печ і гаспадарчы вугал аддзялілі ад параднага памяшкання, дзе заставаліся традыцыйная покуць, *шафа* ці куфар з чыстым адзеннем і бялізнай, стаялі ложкі, услоны, простыя *крэслы*.

Арганізацыя І. х. ў трохкамерным жыллі (тыпу хата + сенцы + хата) ішла як па шляху функцыянальнага размежавання на больш чыстае і звычайнае будзённае памяшканні, так і ў выніку сямейных падзелаў, калі побач праз сенцы прыкладна ў аднолькавых умовах жылі дзве самастойныя сям'і. Ва ўсіх выпадках інтэр'ер у значнай ступені адлюстроўваў сацыяльнае становішча гаспадароў, іх сямейныя традыцыі і індывідуальныя густы. У наш час інтэр'ер сялянскай хаты зазнаў прыкметныя змены, якія адлюстроўваюць зрухі ў сацыяльна-эканамічным жыцці і культурна-бытавым укладзе бел. насельніцтва. Аднак індустрыяльныя метады будаўніцтва, прамысловая тыпізацыя канструкцый і абсталявання не пазбаўляюць нар. жыллё індывідуальнага характару і мастацкай выразнасці. Інтэр'ер сучаснага жылля сінтэзуе ў сабе дасягненні культуры і вытворчасці, якія спалучаюцца з выпрабаванымі ў мінулым спосабамі мэбліроўкі і ўбранства, заснаванымі на самадзейным мастацтве і лепшых традыцыях мясцовых промыслаў.
*В. С. Цітоў.*

**ІРХА**, 1) і р ш а, вузенькая палоска скуры або аўчыны, якую краўцы закладвалі (іршылі) у шво кажуха, рукавіц і інш. 2) Тасёмка або вузкая палоска аўчыны, якой абшывалі (аблямоўвалі) край світы ці кажуха (гл. ў арт. *Аблямоўка*).

**ІСТОПКА**, старадаўняя гаспадарчая пабудова зрубнай канструкцыі для захоўвання харчовых прыпасаў; тое, што і *варыўня*.

**«ИСТОРИЧЕСКИЙ ВЕСТНИК»**, рускі гісторыка-літаратурны часопіс. Выдаваўся штомесячна ў Пецярбургу ў 1880—1917. Друкаваў навук.-папулярныя артыкулы па гісторыі Расіі, рус. л-ры, гіст. апавесці і раманы, дзённікі, мемуары, дакументы. Кансерватыўна-манархісцкі характар выдання найбольш выявіўся пасля Рэвалюцыі 1905—07 і ў час 1-й сусветнай вайны. Гісторыі і этнаграфіі Беларусі прысвечаны «Успаміны пра службу на Беларусі ў 1864—1870 гадах» І. М. Захар'іна (1884, т. 15—16), «Паездка на Палессе» С. С. Гагоцкага (1900, т. 82), апавяданні «Куточак паўстання 1863 года» (1902, т. 90) і «Успаміны інсургента» (1912, т. 129—130) С. С. Акрайца і інш. Падзеі грамадскага і культ. жыцця Беларусі 18—19 ст. адлюстраваны ў мемуарах Акрайца (1908, т. 114; 1916, т. 144—145), С. Б. Бранеўскага (1889, т. 38), Я. М. Буткоўскага (1883, т. 14), К. К. Жэрве (1898, т. 72—74), І. І. Корвін-Кучынскага (1903, т. 94—95). Змяшчаў рэцэнзіі на працы бел. этнаграфаў, фалькларыстаў і гісторыкаў А. Я. Багдановіча, М. В. Доўнар-Запольскага, М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава, А. П. Сапунова, П. В. Шэйна.
*С. А. Кузняева.*



**КАБА́Т**, 1) верхняе мужчынскае і жаночае адзенне. Шылі з цёмнага валенага сукна або футра. На Беларусі вядомы з 16 ст. Шчыльны да стану, кароткі К. кроілі з адразной або суцэльнай баскай, з рукавамі і без рукавоў, аздаблялі нашыўкамі тасьмы, шнура, аблямоўкай розных тканін. Вылучаліся цёмна-карычневыя і чорныя К. дамачаўскага строю, аздобленыя цёмна-сінім маляўніча выкладзеным вітым шнурам, дэкаратыўным штапам, з баскай у выглядзе кліноў ці спаднічкі. 2) Састаўная частка нар. касцюма бел. жанчын — адзежына ў выглядзе безрукаўкі; тое, што і *гарсэт*.



**Кабат** хлапечы. Брэстчына. Пачатак 20 ст.

**КАБА́ШНІКАЎ** Канстанцін Паўлавіч (н. 24.7.1927, Гомель), беларускі савецкі фалькларыст. Д-р філал. навук (1971), прафесар (1980). Чл. КПСС з 1952. Скончыў Гомельскі педагагічны ін-т (1951). З 1957 працуе ў Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1972 заг. сектара). Даследуе жанры бел. фальклору, праблемы фальклорных узаемасувязей. Адзін з аўтараў кніг «Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць» (1967), «Беларуская народна-паэтычная творчасць» (1979), «Параўнальны паказальнік сюжэтаў. Усходнеславянская казка» (Л., 1979), арт. «Паходжанне і шкоднасць забабонаў» (1960, з Л. А. Малчанавай). Напісаў шэраг прац, прысвечаных вывучэнню антырэлігійных ідэй у бел. фальклоры. Складальнік зб. «Беларускія народныя песні. Са зборнікаў П. В. Шэйна» (1962), а таксама тамоў «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі» (1971), «Чарадзейныя казкі» (ч. 1—2, 1973—78, з Г. А. Барташэвіч) са зводу «Беларуская народная творчасць» (Дзярж. прэмія БССР 1986). Да тамоў напісаў прадмовы і разам з Л. Р. Барагам падрыхтаваў навуковыя каментарыі.

*Тв.:* Нарысы па беларускаму фальклору. Мн., 1963; Беларуская казка ў казачным эпасе славян. Мн., 1968; Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі. Мн., 1969; Методыка збірання беларускай народнай вусна-паэтычнай творчасці. Мн., 1978; Беларускі фальклор у параўнальным асвятленні. Мн., 1981; Інтэрнацыянальнае і нацыянальнае ва ўсходнеславянскай народнай паэзіі Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1982; Беларуска-рускія фальклорныя сувязі. Мн., 1988.
*І. С. Александровіч.*

**«КАБЫ́ЛА»**, гульня-паказ і маска-персанаж у старажытным калядным абрадзе. Называлася таксама «Кабылка», «Конь», «Вадзіць кабылу». Абрад звязаны з традыцыяй земляробчых святкаванняў зімовага сонцавароту. Мяркуюць, што бярэ пачатак з часоў язычніцтва. Найбольш пашырана на Палессі, дзе захавалася як элемент калядавання і ў наш час.

«К.» рабілі з дапамогай двух рэшатаў (іх замацоўвалі на канцах кія, спераду прыладжвалі галаву з вушамі, ззаду — хвост; апісана Е. Р. Раманавым) ці сплятаці каркас з пруткоў або сцёбла лазы, з палатна сшывалі галаву, яе напіхалі саломай (зафіксавана і апісана на Магілёўшчыне А. С. Дамбавецкім); грыву і хвост рабілі з пянькі. «К.» мела выгляд чалавека на кані: паміж рэшатамі ці ў «рэбры» ўлазіў хлопец, яго накрывалі старой світкай ці посцілкай, каб не было відаць яго ног. На Гомельшчыне для раўнавагі «К.» прымацоўвалі накрыж двума паясамі да плячэй хлопца, а ў паўд. яе мясцінах (Папоўская, Краснабудская, Юркавіцкая воласці Гомельскага пав.; апісана Раманавым) каркас «К.» абшывалі белым палатном («белая К.»), а на галаву ёй яшчэ надзявалі аброць і вешалі званочак.

«К.», як і *«Каза»*,— своеасаблівая карнавальная гульня, вясёлы тэатралізаваны паказ, святочная забава, менавіта так яна ўспрымалася ўдзельнікамі і гледачамі. Часам яна вельмі нагадвала «Казу», але замест «дзеда» ў ёй дзейнічаў «цыган» у падраным кафтане, з размаляваным сажаю тварам і з пугаю ў руцэ. Сцэна складалася з «муштроўкі», «смерці» і «ўваскрэсення» «К.». «К.» была малая і вялікая. Малую звычайна вадзіў «цыган». У вялікай удзельнічалі і інш. персанажы: селянін і сялянка (ці мужык, дзед і баба), «афіцэр», «барыня» (у жанчын пераапраналіся хлопцы), «улан», абавязкова музыкант і пеўчыя (10—12 чал.). Звычайна пыталіся дазволу на паказ («Дабры-вечар! пусти, хазяин с кабылаю!»). Заходзілі ў хату спачатку пеўчыя, «цыган» з «К.», потым інш. персанажы. Гульня пачыналася віншавальнай калядкай пеўчых, танцамі персанажаў, спадарожнікаў «К.» (на Ма-

гілёўшчыне «К.» вадзілі без песень): селяніна з сялянкай, «афіцэра» з «барыняй», «цыгана» з «уланамі». Цэнтральнай была т. зв. сцэна абмену коней. «Цыган» угаворваў дзеда ці гаспадара хаты (выступаў у такім выпадку ў ролі дзеда) купіць яго «К.», расхвальваў яе. Дзед адмаўляўся, лічыў цану высокай, знаходзіў у «К.» розныя хібы. Торг пераходзіў у бойку, пасля чаго ўдзельнікі прыходзілі да згоды. Існавалі розныя варыянты торгу. У некаторых іншым варыянце зафіксаваў яго Дамбавецкі: «цыган» расхвальваў «К.» прымаўкамі, камічнымі рухамі, пугай прымушаў яе дэманстраваць свае вартасці, але тая не кранулася з месца. Тады «цыган» «пускаў ёй кроў», але і гэта не дапамагала, і ён звяртаўся да гаспадара за ўзнагародай («кабыле на авёс»). Нагогул развіццё і працягласць сцэны залежалі ад імправізацыйных здольнасцей выканаўцы ролі «цыгана» і актыўнасці гледачоў-удзельнікаў. Уключала яна і жартаўлівае прадстаўленне-самарэкамендацыю «цыгана», апавяданне пра яго прыгоды. Завяршалася сцэна ўзнагародай ці пачастункам удзельнікаў гульні. У выпадках, калі гаспадар не запрашаў у хату, у яго адрас спявалі здзеклівую песню. «К.» ўяўляла сабой тэатралізаваную сцэнку з дыялогам, спевамі, танцамі, музыкай. У далейшым яна ўвайшла ў паказы нар. тэатра. Так, сцэна абмену коней разыгрывалася ў *народнай драме* «Цар Максімілян». У ролі гаспадара хаты ў ёй выступаў цар Максімілян (запісы М. Я. Грынблата і М. К. Васільева). Самарэкамендацыя «цыгана», апавяданне пра яго прыгоды зафіксавана ў паказах нар. драмы і батлейкі.

*М. А. Каладзінскі, Дз. У. Стэльмах.*

**КАБЫ́ЛКА**, 1) адна з дзвюх пласцінак з калёсікамі ў *кроснах*, да якіх падвешваюцца *ніты*. 2) Прыстасаванне для мяздрэння і галення скур; тое, што і *калода*.

**«КАБЫ́ЛКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Сфарміраваўся, відаць, у працэсе калядавання (пераапрананне ў «кабылку»). Трое выканаўцаў станавіліся адзін за адным, нахіляліся ўперад і абдымалі пярэдняга за талію. Зверху на ўсіх накідалі гуньку (зрэбную посцілку), а на галаву таго, хто стаяў першым, адзявалі шапку. Выканаўцы рухаліся на крузе, узгоднена прытопваючы ў рытм песні:

А Васіль дарог не знае,
У кабылкі пытае.
А кабылка пад масток,
А ён яе за хвасток.
Стой! Тпру, мая міла,
Каб ты воза не пабіла.

Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гродзенскай вобласці. *Ю. М. Чурко.*

**КАВАЛЕ́ЎСКАЯ** Софія (1853, в. Малыя Бакшты Маладзечанскага р-на — 22.2.1918), беларуская фалькларыстка, этнограф і пісьменніца. Вывучала матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, сабрала калекцыю прадметаў нар. рамёстваў, твораў мастацтва, а таксама матэрыялы пра паўстанне 1863—64 на Міншчыне. Аўтар працы «Святканне вяселля ў Вілейскім павеце ў ваколіцы Маладзечна і Радашковіч» (Wisla, 1900. T. 14), дзе разам з апісаннем абраду прыводзяцца ўзоры вусна-паэтычнай творчасці. Выдала кнігу «Мінскія абразкі 1850—1863 гг.» (1912) пра гісторыю Мінскай гімназіі і яе выкладчыкаў, тэатр, памятныя мясціны горада. *Г. А. Каханоўскі.*





**«Кабылка».** Выконваюць жыхаркі вёскі Бярозкі Брагінскага раёна.

**«Кабылка».** Выконваюць жыхаркі вёскі Жмураўка Рэчыцкага раёна.

**КАВАЛІ́**, майстры, якія займаліся коўкай металу (гл. *Кавальства*). У старажытнасці адначасова былі гутнікамі — майстрамі па выплаўцы жалеза з балотнай ці азёрнай руды, з якога потым выкоўвалі прылады працы, зброю, хатняе начынне, упрыгожанні і інш. У 11—13 ст. К. адасобіліся ад гутнікаў, у 14—17 ст. дыферэнцыраваліся ў шэраг вузкіх спецыяльнасцей: мечнікаў, замочнікаў (клудачнікаў), рагатнікаў, лучнікаў, нажоўшчыкаў і інш. Гарадскія К. належалі да саслоўя мяшчан і з 16 ст. мелі права аб'ядноўвацца ў *цэхі рамеснікаў*. У 2-й пал. 17. ст. шмат К. з Беларусі працавалі ў Маскоўскай дзяржаве. Навучанне кавальскаму рамяству працягвалася ад 3 да 7 гадоў, пасля чаго вучні станавіліся чаляднікамі (падмайстрамі). Для атрымання статусу майстра К. павінны былі зрабіць «вандроўку» па рамесніцкіх цэнтрах (ці заплаціць за яе) і выкаваць пэўны выраб («зрабіць штуку»). Сельскія К. задавальнялі патрэбы навакольнага насельніцтва ў неабходных прадметах хатняга ўжытку, сельскагаспадарчых прыладах і інш. Перадача майстэрства адбывалася шляхам вучнёўства, часта ў сваіх бацькоў (калі рамяство было спадчынным) ці ў местачковых К. Да канца 19 ст. К. працавалі часова ці пастаянна па найму ў грамадскіх *кузнях*, пазней сталі набываць уласныя і ўсталёўваліся ў вёсках. К канцу 19 ст. ў кожным павеце налічвалася да 50 сельскіх К. Звычайна К. працавалі разам з памочнікам-малатабойцам. Акрамя гарачай ці халоднай коўкі, К. выконвалі зварку, загартоўку, а таксама слясарныя, бляхарныя, паяльныя і інш. работы. У час Вял. Айч. вайны многія К. ў партызанах выраблялі і рамантавалі зброю. У наш час К. працуюць у калгасных і саўгасных майстэрнях, рамантуюць сельскагаспадарчую тэхніку, задавальняюць патрэбы ў неабходных вырабах, звычайна валодаюць газа- і электразваркай.

*Я. М. Сахута.*



**Каваль** А. І. Сяргей. Вёска Слабада Вілейскага раёна.

**«КАВА́ЛЬ»**, традыцыйны танец. Музычны памер часцей за ўсё $^2/_4$. Тэмп жвавы. Пабудаваны на імітацыі работы кавалёў. Пластычны лейтматыў — удар молата па накавальні, што ў шматлікіх варыянтах узнаўляўся па-

рознаму: кулакамі па калене, абцасамі ці палкамі аб падлогу, далонямі ў далоні. Суправаджаецца рознымі прыпеўкамі, напрыклад:

Я праз кузню ішла,
Малаток знайшла!
Любі мяне, кавалёк,
Падарую малаток.

Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гродзенскай, Гомельскай і Віцебскай абласцях. *Ю. М. Чурко.*

**КАВА́ЛЬСКІЯ ІНСТРУМЕ́НТЫ,** прылады і прыстасаванні, якія прымяняліся ў *кавальстве* і знаходзіліся ў *кузні*. Значная іх частка выраблялася самімі *кавалямі*. Асноўныя кавальскія аперацыі выконваліся на кавадле (кавала, накавальня) — масіўнай жалезнай надстаўцы з гладкай паверхняй і паўкруглым конусным рогам (часам — двума), звычайна са спецыяльнымі адтулінамі з краю, куды ўстаўлялі маленькае кавадла для кавання дробных вырабаў (шпарак), сякач для рубкі прутоў ці дроту (муслік, шротка) ці гладзілку (брусок з паўкруглай выемкай для адкоўвання восей). Для коўкі ўжываліся малаткі: вялікі (аберучны) молат (кувалда, вагой 3—8 кг), сярэдні (аднаручак, 1—2 кг), малы (малаточак, 0,5—0,8 кг), абцугі (клешчы, абцэнгі) абушныя (для кавання сякер), крычныя (для адкоўвання жалезных зліткаў-крыц) і кавальскія, з плоскімі (часам фігурнымі) захопамі (губамі) для ўтрымання загатовак. Да варштата ці вушака дзвярэй мацавалі вінтавыя ціскі вертыкальнага тыпу (шубстак, шрубштак) для мацавання вырабаў пры іх апрацоўцы. Цвікі адкоўвалі з дапамогай гваздзельні — металічнага бруса з прамавугольнымі калібравальнымі адтулінамі. Для прабівання дзірак служыў прабойнік (друшляк, прабоіч) — тоўсты, завостраны на адным канцы сталёвы стрыжань (для халоднага металу), які замацоўвалі ў гнутай з дубу ці лазы ручцы (для гарачага металу). Дзіркі ў тонкіх загатоўках і драўляных вырабах свідравалі дрылем — свярдзёлкам з дыскам-махавіком, які раскручваўся пры дапамозе рукаяткі з сырамятным ці вяровачным прыводам. У пач. 20 ст. ў некаторых кузнях з'явіліся спецыяльныя прылады для свідравання дзірак (бормашына). Для вырабу гаек служыў круглы сталёвы стрыжань з разьбой (вінтоўнік, метчык, мятчук), які ўстаўлялі ў трымальнік — металічную пласціну з дзіркамі і дзвюма рукаяткамі. Такая ж пласціна з разьбой у дзірках (вінтарэзка, шнайдэза, клубік, лерка) ужывалася для нарэзкі шрубаў. Для заточкі інструментаў прымянялася тачыла — круглы плоскі камень з пясчаніку ў драўляным станку з карытам для вады (для замочвання каменя ў час работы), які прыводзіўся ў дзеянне пры дапамозе ручкі (корбы), замацаванай глуха ў цэнтры каменя і свабодна ў бакавінах станка; пры заточцы сякер ужывалася спецыяльная прылада (рожкі). У набор К. і. уваходзілі таксама напільнікі, ключы, зубілы, прылады для паяння, бляхарных, сталярных і інш. работ.




**Кавальскія інструменты:** 1 — молат і малаткі; 2 — шпарак; 3 — кавадла.




**Кавальскія інструменты:** 1 — сякач для апрацоўкі гарачага металу; 2 — сякач для апрацоўкі халоднага металу; 3 — прабойнік для гарачага металу; 4 — прабойнік для халоднага металу; 5 — абцугі абушныя; 6 — абцугі губчастыя; 7 — гваздзельня; 8 — рожкі; 9 — дрыль.

У наш час традыцыйны камплект К. і. папоўніўся прыладамі прамысловай вытворчасці; многія інструменты (дрыль, бормашына, тачыла) заменены адпаведнымі станкамі з электрапрыводам. *Я. М. Сахута.*

**КАВА́ЛЬСТВА**, вытворчасць вырабаў гаспадарчага і дэкаратыўна-прыкладнога прызначэння з жалеза шляхам яго гарачага ці халоднага кавання. На Беларусі вядома з часоў жалезнага веку. Жалеза здабывалі з балотнай руды ў невялікіх паўшарападобных печах (домніцах), з атрыманых загатовак (крыц) выкоўвалі наканечнікі коп'яў, нажы, долаты, конскую збрую, упрыгожанні і інш. Пашырылася ў 11—13 ст. З жалеза выкоўвалі рэчы гаспадарчага і бытавога прызначэння: сякеры, долаты, нажы, нажніцы, свярдзёлкі, зубілы, шпоры, коп'і, цвікі, крэсівы, замкі, ключы, спражкі, фібулы і інш. К. звычайна займаліся гарадскія рамеснікі, якія валодалі таксама загартоўкай, цэментацыяй, зваркай. У 16 ст. ўзніклі першыя кавальскія цэхі (Слуцк, Полацк, Магілёў, Віцебск і інш.), якія аб'ядноўваліся разам з іншымі (гал. чынам слясарнымі) ці выдзяляліся ў самастойныя. Уставы кавальскіх цэхаў рэгламентавалі характар работы *кавалёў*: акоўванне транспартных сродкаў, падкоўванне коней, выраб сякер, крукоў, шлемаў, якараў, ланцугоў, рашотак, а таксама розных рэчаў маст. характару. Асаблівага развіцця дасягнула К. ў 17—18 ст. У Віцебску, Полацку, Мінску, Магілёве, Пінску, Гродне налічваліся дзесяткі кавалёў розных спецыяльнасцей: нажоўшчыкаў, мечнікаў, замочнікаў, кацельшчыкаў і інш. Пераважная большасць гарадскіх майстроў працавала ў сферы манументальнага будаўніцтва. Яны выраблялі агароджы, балконы, лесвічныя парэнчы, алтарныя перагародкі, крыжы, флюгеры і інш. Многія беларускія майстры-кавалі працавалі ў Маскоўскай дзяржаве. У 19 ст. з развіццём прамысловасці К. ў гарадах занепала, адначасова ўзрастала яго роля ў вёсцы, дзе яно задавальняла гал. чынам бытавыя і гаспадарчыя патрэбы навакольнага насельніцтва. Для кавальскіх работ будавалі асобнае памяшканне — *кузню*, у якой былі *горан* і неабходныя *кавальскія інструменты*. Вугаль (з лісцевых парод дрэў) набывалі на смалакурнях ці выпальвалі самі, жалеза выкарыстоўвалася ў выглядзе заводскага фасоннага пракату (шыннае, падкоўнае і інш.) ці рознага жалезнага лому. Асноўныя віды работ: акоўка транспартных сродкаў (калёс, саней, брычак, вазкоў) і выраб металічных дэталей да іх, падкоўванне коней, выраб сельскагаспадарчага інвентару (сярпы, сашнікі, матыкі, драпашкі), слясарнага і сталярнага інструменту (сякеры, свярдзёлкі, стругі, долаты, скоблі), прыладаў хатняга ўжытку (секачы, качэргі, вілкі, багры, бязмены, крэсівы), дэталяў аснашчэння жылля і мэблі (*завесы, клямкі, замкі*, крукі, зашчэпкі, кра́ты) і інш. Для выкоўвання патрэбнага вырабу жалезную загатоўку награвалі ў горне дачырвана (для надання металу пластычнасці) і, паклаўшы яе на кавадла, ударамі малатка выкоўвалі з яе патрэбную форму. У залежнасці ад прызначэння вырабаў іх тэрмічна апрацоўвалі — цэментавалі (насычалі паверхневы слой вугляродам, што надавала вырабам павышаную цвёрдасць і трываласць), загартоўвалі (награвалі і хутка ахалоджвалі ў вадзе для надання цвёрдасці, пругкасці) і адпускалі (награвалі і паступова ахалоджвалі, што змякчала дзеянне загартоўкі, змяншала крохкасць і павышала пластычнасць). Асноўным спосабам нераздымнага злучэння загатовак ці асобных частак у адзінае цэлае (напр., зламанай восі) была кавальская зварка. Канцы загатовак награвалі дабяла і пасыпалі іх рачным пяском (каб прадухіліць утварэнне акаліны), потым стыкоўвалі ў адзінае цэлае моцнымі ўдарамі малатка. Зварка ўжывалася і для спалучэння жалеза са сталлю (пры вырабе сярпоў, нажоў, сякер, зубілаў і інш.): да жалезнай асновы (спінка, абушок) прыварвалі стальное лязо ці ўварвалі яго паміж дзвюма жалезнымі пласцінамі (пастальвалі), што надавала вастрыню ляза неабходную цвёрдасць, а яго крохкасць кампенсавалася пластычнасцю жалезнай спінкі ці бакавін. Для нераздымнага злучэння частак ужывалі таксама кляпанне: у прабітыя ці прасвідраваныя адтуліны ўстаўлялі металічны стрыжань (заклёпку), крыху даўжэйшы за агульную таўшчыню злучаемых частак, яго канцы расклёпвалі, надзейна змацоўваючы дэталі. Злучэнне хамуцікам прымянялася звычайна пры вырабе рэчаў дэкаратыўна-прыкладнога характару: дзве дэталі (напр., звенні агароджы) у месцы стыкоўкі абкручвалі металічнай скобкай (часам — дватры разы), якую ўдарамі малатка абціскалі вакол загатовак. Раздымныя злучэнні рабілі з дапамогай шрубаў. Існавалі іншыя спосабы кавальскай апрацоўкі вырабаў: усадка — павелічэнне папярочнага сячэння загатоўкі па ўсёй даўжыні з адначасовым яе скарачэннем (малатком білі па канцы разагрэтай загатоўкі, пастаўленай другім канцом на кавадла); высадка — патаўшчэнне пэўнай часткі загатоўкі (выконваецца такім жа чынам, але награваецца не па ўсёй даўжыні, а ў адпаведным мес-



**Кавальства.** Крыж. Канец 19 ст. Вёска Каралеўцы Вілейскага раёна.



**Кавальства.** Агароджа балкона. 19 ст. Гродна.



**Кавальства.** Агароджа. Фрагмент. Канец 19 ст. Добруш.

цы); тарсіраванне — скручванне гранёнага стрыжня вакол восі для ўтварэння вінтападобнай загатоўкі; рассяканне загатоўкі зубілам з наступным адгінаннем адгалінаванняў да пэўнай формы і інш. Разнастайнае спалучэнне тэхналагічных прыёмаў дазваляла ствараць не толькі утылітарныя, але і дэкаратыўна-мастацкія вырабы складанай канструкцыі і малюнку. Так, напр., асноўны від дэкору каваных агароджаў, варот, балконаў — спалучэнні S- і C-падобных завіткоў, скручванне жалезных прутоў вакол падоўжнай восі, арнаментальныя матывы ў выглядзе разетак, бегункоў, меандру, картушаў; накладкі на мэблі і дзвярах аздабляліся прасечкай, гравіроўкай, насечкай у выглядзе геаметрычных узораў; дробныя каваныя вырабы дэкарыравалі ўзорамі з кропак, ямак, крыжыкаў, зорачак, выбітых адпаведнымі штампамі. У наш час К. ў сваім традыцыйным выглядзе захавалася пры калгасных і



**Кавальства.** Ручка. Канец 19 ст. Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў.

саўгасных майстэрнях, дзе з'яўляецца дапаможнай металаапрацоўчай спецыяльнасцю пры рамонце сельскагаспадарчага інвентару, абслугоўвання бытавых патрэб насельніцтва. Звычайна К. спалучаецца з газа- і электразваркай. На заводах у кавальскіх цэхах асноўныя працэсы механізаваны. У 60—80-я г. адраджаецца ручное мастацкае кавальства для аздаблення грамадскіх інтэр'ераў, рэстаўрацыі старой забудовы і інш. *Я. М. Сахута.*

**КАВЯРЗНІ́**, лыкавыя *лапці* з закрытымі насамі. Называлі таксама коверзні.

**КАГАНЕ́Ц**, с в я ц і л ь н я, даўнейшае прыстасаванне для асвятлення памяшкання. Называлі таксама светач. Гліняная, часам металічная пасудзіна, напоўненая тлушчам або алеем з апушчаным у яго кнотам. У залежнасці ад паліва мянялася форма К.— ад латка і міскі да гаршка і глячка з вузкім вусцем. К. ставілі ці падвешвалі над вусцем дымахода. У нар. побыце бытаваў побач з *лучнікам* да пач. 20 ст. *В. С. Цітоў.*

**КАДА́ЎБ**, выдзеўбаная пасудзіна розных памераў цыліндрычнай ці блізкай да яе формы. Лакальныя назвы кадоўб, калдуб, ліпаўка, дуплянка. Выраблялася з дуплістага ствала дрэва (ліпы, вольхі, асіны) з дапамогай пешні і скоблі. Побач з аднадоннымі сустракаліся К. з двума дніпічамі і адтулінай збоку. Выкарыстоўваліся для захавання збожжа, круп, мукі; К. меншых памераў — для мёду (звычайна рабілі з



**Кавальства.** Дзвярная рашотка Міхайлаўскага касцёла. 2-я палавіна 17 ст. Вёска Міхалішкі Астравецкага раёна.

ліпы). Эпізадычна сустракаюцца ў наш час. *В. С. Цітоў.*

**КАДО́Л**, назва каната, *ліны* ў бурлакоў на Зах. Дзвіне. Для цягі вял. шкута ўверх па рацэ ў сярэдзіне 19 ст. ў склад арцелі, акрамя бурлакоў, уваходзілі 2 кадольшчыкі і 2 падкадолы. Падкадолы на лодках падтрымлівалі К., каб ён не апускаўся ў ваду, кадольшчыкі падымалі снасць на беразе жалезнымі віламі на доўгіх дзяржаннях. *Н. І. Буракоўская.*

**КАДО́Л**, прыстасаванне для пад'ёму калодных вулляў на дрэва. Бытавалі 2 відаў: з наглуха ўмацаваным на драўляным восі колам і са штырамі на калаўроце і асобным блокам. Пры накручванні вяроўкі на вось або вал калаўрота калоду паднімалі на патрэбную вышыню і ўстанаўлівалі на *подкуры* ці пакладзеных на галіны дубовых брусах. Былі пашыраны па ўсёй Беларусі. У наш час выкарыстанне К. зафіксавана на Усх. Палессі ў 1978.

**КАДРЫ́ЛЯ** (франц. quadrille ад ісп. cuadrilla літар. група з чатырох чалавек), танец. Музычны памер, як правіла, $^2/_4$. Цотная колькасць пар становіцца па вуглах квадрата або ў два рады адзін супраць аднаго. У К. некалькі частак —кален, кожнае мае сваю назву, мелодыю, пэўны парадак рухаў. У 18—19 ст. К.— папулярны салонны танец. З сярэдзіны 19 ст. пашырана і на Беларусі. Зазнала моцны ўплыў нацыянальных традыцый і стала часткай нар. харэаграфіі. Захоўваючы ас-





**Каганец.** Паўднёвы ўсход Беларусі. 19 ст. **Кадаўб.**

ноўныя кампазіцыйныя моманты (размяшчэнне пар па квадраце або радамі, абмен і пераходы партнёраў, пэўная паслядоўнасць фігур), бел. К. ў сваім харэаграфічным змесце, колькасці і назвах фігур арыгінальныя і самабытныя. У некаторых рэгіёнах перапляталіся ў сюіты з вядомых раней традыцыйных і новых танцаў. Існуе мноства мясцовых варыянтаў К.,




Кадолы: 1 — з колам; 2 — з калаўротам.



Кадрыля ў выкананні фальклорнага калектыву з вёскі Мехавое Гарадоцкага раёна.

у назвах якіх адлюстроўваюцца асаблівасці структуры (прамая, касая, кругавая), колькасць удзельнікаў (тонкая, тоўстая), мясцовасць бытавання (Лядкоўская, Ланская, Турэйская, Смаргонская, Воранаўская, Сянкевіцкая) і інш. фактары (Лянсей, Урубель, З пятага). На падставе нар. К. створана шмат яркіх сцэнічных твораў. *Ю. М. Чурко.*

**«КАДУШАЧКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умераны. Выконваюць яго 4 дзяўчыны або некалькі груп (у кожнай па 4) дзяўчат. З чатырох бакоў выканаўцы сыходзяцца ў круг, шчыльна становяцца плячо ў плячо (як дошкі ў кадушцы) і прыстаўным крокам праходзяць адзін круг, потым спіной вяртаюцца на свае месца. Фігура танца, якая завяршаецца паваротам вакол сябе, паўтараецца некалькі разоў запар. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Брагінскім р-не Гомельскай вобласці. *А. Л. Варламаў.*

**КАДУШКА**, бандарная, радзей выдзеўбаная пасудзіна розных памераў у форме ўсечанага конуса, звужаная кверху. Называлася таксама кадзь, кадка. Звычайна без вушак. Выкарыстоўвалася для захавання прадуктаў — квашанай капусты і буракоў, салёных агуркоў, грыбоў, соку, квасу і інш. К. вялікіх памераў — кадзі (1,5—1,6 м у вышыню) —выкарыстоўваліся для захавання збожжа, мукі. Нярэдка яны, як і *бочкі*, замацоўваліся стацыянарна на гліняной аснове ў свірнах ці клецях. Пашыраны ў хатнім побыце са старажытных часоў і захаваліся да нашага часу. *В. С. Цітоў.*

**КАЖАМЯКІ**, рамеснікі па апрацоўцы сырамятнай скуры для вырабу *вупражы* (гл. *Рымарства*). Называліся таксама рымары.

**КАЖУХ**, верхняе зімовае мужчынскае і жаночае адзенне з аўчын. Шылі з нядубленых, пазней з вырабленых аўчын жоўта-карычнева-вохрыстага, вохрыста-цаглянага, радзей белага колераў. На Беларусі паводле крою К. канца 19— пач. 20 ст. падзяляліся на 3 групы: прамога крою — спінка і крыссе прамыя, вялікі адкладны каўнер, апуха ўдоўж верхняга крыса і па нізе; прыталены (пашыраны ў Падняпроўі, Цэнтр. Беларусі, Паазер'і) — спінка



Кадушка для сыру ці тварагу. Вёска Варанцы Мядзельскага раёна. Канец 19— пачатак 20 ст.

адразная (ніжняя частка ў зборкі), верхняе крысо, ніз, рукавы абшыты паскам аўчыны воўнай наверх; з «вусам» (характэрны для Палесся) — спінка прамая (часцей суцэльная), у таліі звужаная, па баках ад таліі ўшыты шырокія кліны («вусы»), невялікі стаячa-адкладны каўнер-апуха.

Святочныя К. багата аздаблялі нашыўкамі паскаў аўчын белай або чорнай воўнай наверх, паскамі і лапікамі чырвонага або блакітнага сукна, тонкай пафарбаванай скуры, плеценымі тасёмкамі-паяскамі, аднаколерным ці пярэстым (плеценым коскай) шнуром, пампонамі-кутасамі, выплеценымі са



**Кажух.** Лунінецкі раён. 1950-я г.

скуры гузікамі, вышыўкай гладдзю, «козлікам». Разнаколерны раслінны арнамент вышывалі ніткамі муліпэ, самапрадзенай воўны. Сярод традыцыйных К. мастацкім афармленнем, дасканаласцю крою і шытва вылучаюцца *мотальскія кажухі*, калінкавіцкія, магілёўскія К. Кароткі, да каленяў, кажушок называюць паўкажушкам.

*М. Ф. Раманюк.*

**КАЗА́**, 1) прыстасаванне для агню. Называлася таксама светач, накра, гаганец. Выкарыстоўвалася для начной лоўлі рыбы восцямі. Мела выгляд плецянага з дроту кошыка, што падвешваўся на канцы палкі, устаноўленай на носе лодкі або чоўна. Рабілі К. і са скляпаных паміж сабой металічных пласцінак, якія прымацоўвалі да палкі ўтулкай. На ПнЗ Беларусі сустракаліся К. з металічных пласцін у выглядзе жолаба. 2) С а ж а н ь, драўляная мерка ў форме разнятага цыркуля для абмервання зям. участкаў. *І. М. Браім.*

**«КАЗА́»**, гульня-паказ і маска-персанаж у старажытным калядным абрадзе. Звязана з традыцыяй земляробчых святкаванняў зімовага сонцазвароту. Называлася таксама «Казёл», «Ваджэнне казы», «Хадзіць з казой». Важны элемент *калядавання*. Найбольш пашырана ва Усх. Палессі. Галаву маскі выразалі з дрэва, фарбавалі ў белы колер або абшывалі аўчынай. Рогі рабілі з лазы ці скруткаў саломы, бараду — з лёну. Іншы раз маску стваралі так: вывернуты кажух надзявалі адным рукавом на канец дугі, пастаўленай выгнутасцю ўніз, рукаў уверсе завязвалі, прымацоўвалі да яго рогі з саломы (што сімвалізавала галаву і шыю казы), да другога канца дугі прывязвалі хвост з саломы. Вядома «К.» ў выглядзе вялікай лялькі на кіі.

Калядпікам, які надзяваў маску і выконваў ролю «К.», выбіралі невысокага хлопца, здатнага да танцаў, да імправізацыі. Апраналі яго ў вывернуты кажух. Значную ролю ў абрадзе адыгрываў «дзед», які вадзіў «К.». На гэтую ролю звычайна выбіралі высокага хлопца, здатнага да гумару. Яго апраналі таксама ў вывернуты кажух або рыззё, на спіне рабілі «горб», надзявалі маску з бярösты, прыладжвалі бараду з лёну, у руку давалі кій. У абрадавую групу ўваходзілі таксама музыка (ігрой суправаджаў танец «К.»), механоша (насіў абрадавыя падарункі), песельнікі (складалі хор). Некаторыя ўдзельнікі каляднага гурту ўвасаблялі «маладзіцу», «цыгана» і інш. Гурт хадзіў па вёсцы, заходзіў у двары. Адзін з калядпікаў прасіў у гаспадара дазволіць гурту ўвайсці ў хату. Атрымаўшы дазвол, першым у хату ўваходзіў «дзед» з «К.», за імі «цыган», «маладзіца» і інш. удзельнікі гурту. «Дзед» і «К.» (часам і «цыган» з «маладзіцай») станавіліся пасярэдзіне хаты, астатнія каля парога. Прывітаўшы гаспадароў, «дзед» пачынаў муштраваць кіем «К.», песельнікі спявалі абрадавую песню, хвалілі «К.» за яе ўяўную здольнасць спрыяць урадлівасці («Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць, дзе каза хвастом, там жыта кустом, дзе каза нагой, там жыта капой, дзе каза рогам, там жыта стогам, дзе каза не бывае, там жыта вылягае»). Музыка пачынаў іграць, а «К.» выконвала абрадавы танец (імітавала звычкі казы: тупала, падскоквала, «біла» «дзеда» капытамі, «бадала» рагамі). «Дзед» «біў» «К.» кіем, яна падала, прыкідвалася мёртвай. «Дзед» і песельнікі гумарыстычнымі абрадавымі выразамі імкнуліся ажывіць («уваскрэсіць») «К.», але яна не падымалася. Тады калядпікі прасілі гаспадара ажывіць «К.» падарункамі. Атрымаўшы іх, «К.» падскоква-







**Каза.** Ігуменскі павет Мінскай губерні, 1905, і гаганец, вёска Гоцк Мазырскага павета Мінскай губерні. 1910.

**Каза,** плеценая з дроту.

ла, кланялася гаспадару, гаспадыні. «Дзед» прасіў «цыгана» і «маладзіцу» патанцаваць. Музыка іграў «Казачка», «Падушачку», «Барыню». «Цыган» і «маладзіца» танцавалі. Потым гурт выконваў віншавальную песню з пажаданнем гаспадарам добрага ўраджаю, дабрабыту («Стары год канчаем, новы зачынаем: з ранняю вясною, з буйнаю травою, з збожжам каласістым, з зернем ядраністым, ды з прыемным летам, з грашамі пры гэтым, з восенню яснай, з долечкай шчаснай»). Гаспадары дарылі гурту пірагі, сала, каўбасу, і ён накіроўваўся ў наступную хату. Пасля абходу двароў гурт ладзіў святочную бяседу, у час якой ласаваліся падараваным, спявалі гумарыстычныя песні, танцавалі.

Абрад «ваджэння казы» ўзнік у глыбокай старажытнасці. Выконвалі яго вясною, калі сеялі збожжавыя (тады на Беларусі пачынаўся новы год). Пра гэта сведчаць песні, якімі суправаджалі абрад («Стары год канчаем, новы зачынаем»). У адной з песень паведамляецца, што каза ідзе ў поле, і ў сувязі з гэтым выказвасцца пажаданне, каб на полі гаспадара вырасла «жыта каласістае да ядраністае, і ячмень каласён, і гарох замашон». Песня, якую спявалі зімою, калі вадзілі «К.» («Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць...»), пераклікаецца сваімі матывамі з вясновай песняй на *Юр'я*, калі дзяўчынкі з елачкай ішлі ў поле, а потым хадзілі каля хат і спявалі: «Дзе карагод ходзіць, там жыта родзіць, дзе карагод не бывае, там жыта вылягае». З вясною звязаны такі элемент абраду, як імітацыя смерці і ўваскрэсення «К.», што сімвалізавала прабуджэнне прыроды.

Першапачаткова абраду «К.» надавалася магічнае значэнне. Лічылі, што ён спрыяе ўрадлівасці, прадухіляе бяду. Звышнатуральнымі ўласцівасцямі спачатку надзялялі непасрэдна самую жывёлу (у некаторых выпадках у абрадзе выкарыстоўвалі сапраўдную галаву казы). Пра магічнае значэнне абраду ў мінулым сведчаць і ўяўленні аб зерневых духах у выглядзе казла, казы. Гэтыя духі нібыта жылі ў полі і спрыялі яго ўрадлівасці. З уяўленнямі аб такіх духах звязаны абрад *«завіванне барады»*, які спраўлялі ў канцы жніва.

Зімовы абрад «К.» сфарміраваўся ў познім сярэднявеччы з увядзеннем юліянскага календара замест візантыйскага, пераносам пачатку новага года на зіму. З гэтага часу абрад «ваджэння казы» адарваўся ад пачатковых умоў і паступова страціў ранейшы магічны сэнс. Сімволіка абраду стала пераважна безрэлігійнай. Асноўная яго мэта — пажадаць людзям добрага ўраджаю, дабрабыту, шчасця, павесяліць іх. Мастацкія рысы сталі дамінуючымі. Сутнасць абраду трансфармавалася. Ён стаў гал. чынам вясёлым тэатралізаваным дзеяннем, састаўной часткай *народнага тэатра*. Мастацкія рысы абраду «К.» яшчэ больш узмацніліся ў наш час. Ён канчаткова страціў рэліг. рысы і захоўваецца ў некаторых мясцовасцях як вясёлая зімовая гульня-паказ, зімовая забава.

«К.» — найбольш пашыраная калядная гульня. Святочнай забавай, паказам лічылі яе ў 19 ст. фалькларысты і этнографы І. Эрэміч, П. В. Шэйн, П. А. Бяссонаў, Е. Р. Раманаў. Своеасаблівай карнавальнай гульнёй, якая мае аналогіі ў масках французскага карнавалу, назваў яе фалькларыст А. Рыпінскі. Падабенства ваджэння «К.» з маскараднымі паказамі адзначаў Эрэміч; самым папулярным маскарадным паказам назваў яе А. С. Дамбавецкі. Сцэнічны пачатак у паказах з жывёламі падкрэсліваў і Бяссонаў, ён жа лічыў «К.» самай гаваркой і драматургічнай на Беларусі. «К.» ўспрымалася ўдзельнікамі і гледачамі як вясёлы тэатралізаваны пакаа, у якім спалучаліся песня, танец і дыялог. Падрабязна змест яе на падставе запісаў Раманава, Шэйна, Дамбавецкага і інш. узнавіў бел. сав. фалькларыст А. І. Гурскі. У апісанні «К.» Шэйн зафіксаваў такі гравы момант: абавязкам «дзеда» ў час паказу было займаць гаспадара хаты вясёлай размовай, жартамі, каб пачаставаць яго тытунём са сваёй табакеркі, у якую замест тытуню насыпалі попел (сам «дзед» нюхаў яго сваім доўгім носам з бяросты ці бурака). Гаспадар ад пачастунку адмаўляўся і, у сваю чаргу, імкнуўся адцягнуць увагу «дзеда» і падпаліць яму бараду. Падобнае апісанне «прадстаўлення» прыведзена і ў «Беларускім календары «Нашае нівы» (1912).

*М. Ф. Піліпенка* (апісанне абраду), *Дз. У. Стэльмах.*



**«Каза».** Калядная маска. Вёска Бездзеж Драгічынскага раёна.

**«КАЗА́»**, традыцыйны танец. Называлася таксама «Казёл». Музычны памер $^2/_4$. Верагодна, вытокі яго ў старажытным калядаванні (пераапрананне ў «казу»). Танец часта выконвалі на вяселлях. Вобразы казы і казла доўгі час сімвалізавалі ўрадлівасць. У аснове харэаграфічнага малюнка — імітацыя розных звычак коз (тупат, баданне, скачкі). Бытуе ў карагодных, ігральных, танцавальных варыянтах па ўсёй Беларусі, некаторыя з іх маюць элементы гумарыстычнага гульнёвага дзеяння, акрабатыкі. Папулярна прыпеўка:

> Казаў бацька:
> «Казу дам, казу дам,
> І з маленькім казлянём, казлянём».

*Ю. М. Чурко.*



**«Каза».** Выконваюць жыхары вёскі Мотاль Іванаўскага раёна.



Варыянт танца **«Каза»**. Выконваюць жыхаркі вёскі Грышына Расонскага раёна.

**КАЗА́Н**, чыгунны кацёл для прыгатавання ежы ў плытагонаў, рыбакоў, лясных рабочых.

**КАЗА́ЦТВА** (цюрк. казак — вольны, незалежны чалавек), 1) сацыяльная група ваенізаванага феадальна-незалежнага насельніцтва Вялікага княства

Літоўскага і Рускай дзяржавы. У ўсх.-славян. гіст. крыніцах упершыню ўпамінаецца ў грамаце вялікага князя літоўскага Вітаўта ад 1395. Пачало фарміравацца ў 15 ст., калі феадалы Вял. кн. Літоўскага і Рус. дзяржавы сталі наладжваць пастаянную абарону паўд. і паўд.-ўсх. зямель ад качэўнікаў. Першапачаткова ў склад К. ўваходзілі запрошаныя на памежную (кардонную) службу татар., палавецкія, нагайскія, чаркескія атрады, пераселенае ваеннаслужылае (замяне, панцырныя баяры, шляхта) і беглае насельніцтва. Узмацненне феад.-прыгонніцкага і нац.-рэлігійнага прыгнёту ў 15—16 ст. абумовіла значнае павелічэнне колькасці К. за кошт беглых сялян і гараджан з цэнтр. раёнаў Расіі, Украіны, Беларусі, Малдавіі і інш. Скlaліся асн. тэрытарыяльна-этнаграфічныя групы



**Какошына.**

К.: запарожскае (на Дняпры), украінскае (у раёнах Чаркасаў, Канева, Астэра, Жытоміра і інш.), данскае, церскае, кубанскае, сібірскае, яіцкае (уральскае) і інш.

К. запарожскае склалася пераважна з укр. і бел. сялян, якія ўцякалі ад феад. прыгнёту на Пд Украіны, за дняпроўскія кручы. У 1-й пал. 16 ст. заснавана Запарожская Сеч. Мела ўласнае самакіраванне абшчыннага тыпу з выбарнымі пасадамі кашавых і куранных атаманаў і інш. казацкай старшыны. Вышэйшы орган улады — вайсковая казацкая рада. Заможныя вярхі звычайна займалі выбарныя камандныя пасады і працістаялі радавому К.— галоце (сіроме). Усе члены казацкай абшчыны фармальна мелі роўнае права на карыстанне зямлёю і інш. угоддзямі. Займаліся промысламі, перш за ўсё паляваннем, рыбалоўствам, жывёлагадоўляй. Адным з асн. заняткаў былі ваенныя паходы. У 1570-я г. польскі ўрад утварыў войска рэестравых казакаў. У яго ўвайшлі найб. заможныя казакі, якія атрымлівалі за службу грошы, боепрыпасы, а часам і шляхецкія прывілеі; адначасова ўзмацніўся прыгнёт астатніх казакаў. Гэта паглыбіла супярэчнасці паміж старшынай і масамі К., якія супольна з сялянствам паўставалі супраць феад.-рэлігійнага прыгнёту [паўстанні пад кіраўніцтвам С. Налівайкі, Т. Федаровіча (Трасілы) і інш.]. К. прымала ўдзел у войнах супраць Турцыі, Крымскага ханства, Швецыі і інш. Адыграла вял. ролю ў вызваленчай вайне укр. і бел. народаў 1648—54. Сярод К. было многа выхадцаў з Беларусі (палкоўнікі Бутрым, Гаркуша, Грамыка, Крычэўскі, Хведаровіч і інш.). Казацкія атрады А. Нябабы, Крывашапкі, Бута, Міхненкі, Кемкі і інш. прыходзілі на Беларусь, вакол іх групаваліся бел. сяляне і гарадская беднata. Казацкія войскі пад камандаваннем І. Залатарэнкі ў час руска-польскай вайны 1654—67 змагаліся на Беларусі супраць польска-літоўскіх войск. У сярэдзіне 17 ст. ў Падняпроўі было створана некалькі бел. казацкіх палкоў для барацьбы супраць войск Рэчы Паспалітай, але ў хуткім часе рускі ўрад забараніў арганізацыю ваеннаслужылага К. на Белай Русі і палкі былі ліквідаваны. Пасля Андрусаўскага перамір'я 1667 Запарожская Сеч і значная частка падняпроўскага К. трапіла пад уплыў Расіі. Актыўны ўдзел К. ў антыфеадальнай і нац.-вызв. барацьбе выклікаў неспакой царскага ўрада. У 1765 было ліквідавана слабодскае К., у 1775 зруйнавана Запарожская Сеч. Асн. маса К. была пераведзена ў разрад вольных дзярж. сялян-аднадворцаў, а казацкая старшына — у дваранства. 2) Ваеннае саслоўе ў дарэв. Расіі ў 18— пач. 20 ст. *І. У. Чаквін.*

**«КАЗАЧО́К»**, імправізаваны сольны



**«Казачок».** Выконвае жыхарка вёскі Дастоева Іванаўскага раёна.



**Калаўрот**-стаяк. Вёска Вялікія Бортнікі Бабруйскага раёна.



**Калаўрот**-ляжак з насадной прасніцай. Вёска Жукевічы Берастазіцкага раёна.

мужчынскі танец. Называўся таксама «Казак». Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп хуткі. Асноўныя элементы «К.» вяровачка, ца-дэ-баск, прысядка. Вядомы варыянт выканання «К.» жанчынамі. У некаторых рэгіёнах выконваецца парамі, у такім выпадку асноўны элемент танца — полька-вальсавы паварот па крузе. Выконваецца пад прыпеўкі:

Я прыродны казачок
Маю скрыпку і смычок...

Распаўсюджаны ў мностве варыянтаў па ўсёй Беларусі. *С. У. Клімовіч.*

**«КАЗЁЛ»**, карагод-гульня. Вядома некалькі яго сюжэтаў і варыянтаў. Напр., дзяўчаты, узяўшыся за рукі, утвараюць круг, адна з іх («казёл») становіцца пасярэдзіне. Водзячы карагод, спяваюць: «Пакажы, казелінька, // Павітай, казелінька, // Як бабулькі скачуць?..» Словы з песні «казёл» дэманструе адпаведнымі рухамі. Відаць, гульня паходзіць ад каляднага ўсх.-слав. тэатралізаванага абраду *«каза»*, звязанага з земляробчым святкаваннем зімовага сонцавароту. *А. Ю. Лозка.*

**КАЗЛОЎ** Віктар Іванавіч (н. 21.3.1924, г. Ягор'еўск Маскоўскай вобл.), савецкі этнограф і этнадэмограф. Д-р гіст. н. (1970), прафесар (1985). Скончыў Маскоўскі ін-т інжынераў геадэзіі, аэрафотаздымак і картаграфіі (1950). З 1981 заг. сектара этнічнай экалогіі Ін-та этнаграфіі АН СССР. Асн. працы па пытаннях этнічнай дэмаграфіі, этнічнай геаграфіі, этнічнай экалогіі, тэорыі этнасу і этнічных працэсаў. У яго даследаваннях шырока прадстаўлены бел. матэрыял. Дзярж. прэмія СССР 1980.

*Тв.:* Динамика численности народов. М., 1969; Этническая демография. М., 1977; Современные этнические процессы в СССР. 2 изд. М., 1977 (у сааўт.); Национальности СССР.: Этнодемографический обзор. 2 изд. М., 1982; Иммигранты и этнорасовые проблемы в Британии. М., 1987. *Г. І. Каспяровіч.*

**КАЗЫРО́К**, вузкі на ўсю шырыню хаты застрэшак, што навісае над тарцовай сцяной, засцерагаючы яе ад атмасферных ападкаў; тое, што і *адліў*.

**КАКО́ШЫНА**, канструкцыйны элемент старадаўняй страхі на *сволаках* (на лемягах, на гадунах, з *ветраніцамі* У некаторых мясцовасцях называлася курыца. Франтон рубіўся *закотам*. Замест агульнапрынятых *кроквау* для асновы страхі рабілі на абедзвюх тарцовых сценах сволакі. Кожную пару сволакаў процілеглых сцен замацоўвалі «пакотам», «накотам». Пад ніжні сволак падкладвалі 2—3 пары К., выкапаных з коранем ці выпіленых з дошак. На К. накладваўся жолаб для вадастоку. Прасцейшы варыянт — звычайная дошка (закрыліна), якая разам з К. падтрымлівала матэрыял пакрыцця ад апаўзання. Канцы К. нярэдка аздаблялі разьбой, што надавала ім выгляд курыных галоў. Былі пашыраны па ўсёй Беларусі, найбольш на памежжы Гомельскай і Мінскай абласцей. *У. С. Гуркоў.*

**КАЛАТУ́ША**, рэдкая страва з мукі. У некаторых мясцовасцях называлася калатуха. Кіпяцілі малако (часам з вадою), у яго патрошку сыпалі муку, перамешваючы лыжкай ці калатоўкай, і варылі. Часам муку замочвалі вадой або замешвалі густа («грудачкамі»). Калі К. варылі на вадзе, яе запраўлялі алеем або засквараалі. Была пашырана па ўсёй Беларусі.

**КАЛАЎРО́Т**, 1) самапрадка, прылада для механізаванага прадзення лёну і воўны ў хатніх умовах. На Беларусі вядомы 2 тыпы К.— стаяк (больш характэрны для зах. раёнаў) і ляжак (пераважаў ва ўсх. і паўн.-ўсх. раёнах). Абодва тыпы мелі аднолькавыя рабочыя часткі: кола, педаль (шатун, ківач), якой кола прыводзілася ў рух, і прадзільны апарат. Апошні складаўся са стрыжня і размешчанай на ім шпулькі для намотвання пражы і маленькіх калёсікаў, злучаных пры дапамозе шнуроў з вялікім колам. У К.-стаяку кола знаходзілася паміж дзвюма вертыкальнымі стойкамі пад прадзільным апаратам, у К.-ляжаку — збоку ад прадзільнага апарата. На Беларусі К. з'явіліся ў 16 ст. на мануфактурных прадпрыемствах. У сялянскім побыце выкарыстоўваюцца з сярэдзіны 19 ст., асабліва ў раёнах інтэнсіўнага льнаводства (Пн і У Беларусі), на Пд Беларусі пераважала прадзенне пры дапамозе *верацяна*. 2) Прыстасаванне для пады́мання грузаў (напр., вядра са студні): вал з ручкай, на які намотваецца канат, ланцуг. *Г. М. Курыловіч.*

**«КАЛАЎРО́Т»**, народная гульня. На ледзяной пляцоўцы ўбіваюць кол, на яго надзяваюць кола з жэрдкай, да якой прымацоўваюць санкі. Некалькі чалавек круцяць кола, санкі хутка імчацца па крузе. Хто даўжэй утрымаецца на іх — пераможца. Часам удзельнікі гульні стаяць на каньках.

**КАЛА́Ч**, святочнае печыва з пшанічнай мукі. На захадзе Беларусі — здобны пірог прадаўгаватай формы (пяклі на *вяселле* спецыяльна для маладых), на ўсходзе Беларусі — круглае печыва з цеста на пірагі ў форме абаранка.

**КАЛДУНЫ́**, галушкі або клёцкі, начыненыя мясам. У некаторых мясцовасцях пашыраны назвы канюшы, пызы. К. даўней рабілі з мучнога цеста (жытняга, пшанічнага, грэцкага). Качалі галушкі, у сярэдзіну клалі здробненае мяса або скваркі і варылі, потым адцэджвалі, запраўлялі смятанай, салам, часам падсмажвалі ў тлушчы. У наш час К. робяць з бульбы, якую дзяруць, сцэджваюць, дадаюць тоўчаную бульбу або муку, лепяць галушкі, начыняюць мясам, падсмажваюць на патэльні, потым ставяць у лёгкі дух. *Г. Ф. Вештарт.*



Калёсы.



Калёсы.

**КАЛЁСНІКІ**, с т а л ь м а х і, катэгорыя рамеснікаў, майстроў па вырабу колаў і *калёс*. У феадальны перыяд утваралі асобныя двары-службы пры гаспадарскіх і панскіх маёнтках, замках, гандлёвых і паштовых трактах; за службу атрымлівалі звычайна 2 валокі зямлі. К. «неслужбовыя», што жылі на землях феадала ці казённых, плацілі чынш. Былі і наёмныя К., якія працавалі па дагавору за ўстаноўленую плату. Пазней існавала поўная спецыялізацыя К. па вырабу поўных тыпаў вазоў і іх састаўных частак. Нярэдка ў асобны промысел вылучаўся выраб колаў, абадоў, ступіц, якія патрабавалі спецыяльнай тэхналогіі і прылад працы. Большасць К. жылі ў вёсцы. Многія з іх працавалі сезонна. *В. С. Цітоў.*

**КАЛЁСЫ**, в о з, тып гужавых транспартных сродкаў. Да нядаўняга часу К.

шырока выкарыстоўваліся ў паўсядзённай гасп. практыцы кожнага сялянскага двара. На сваіх падводах сяляне працавалі і ў панскай гаспадарцы, на адыходных промыслах (лясных, рамізных і інш.), выконвалі спец. дарожную і падводную павіннасці, у т. л. шарваркі. Традыцыйныя сялянскія К. мелі простую канструкцыю: 4 колы, насаджаныя на драўляныя (часцей дубовыя, ясеневыя) восі пярэдняга і задняга ходаў (перадка і задка), што трывала злучаліся паміж сабой выгнутай (выгінам кверху) трайнёй і жэрдкамі — білямі, або ляжэйкамі, якія ўтваралі аснову кузава. У падушкі пярэдняга і задняга ходаў забівалі ручкі, на іх замацоўвалі гнуткія дужкі (вязы), што давала магчымасць зацісваць сюды бартавыя дошкі. Пры перавозцы малагабарытных грузаў выкарыстоўвалі плецены кош (палукаш), які ставіўся на К. паміж ручак. У канцы 19— пач. 20 ст. ва Усх. Беларусі выкарыстоўвалася палепшаная канструкцыя К. са стацыянарным кузавам з дошак (прамежкавы варыянт паміж рабочым возам і калымажкай, ці *брычкай*). Тут была вядома і канструкцыя рабочых К., у якіх кузаў замяняла платформа. У с.-г. практыцы такі тып К. з'явіўся, відаць, пад уздзеяннем гандлёва-купецкага грузавога транспарту. У гарадах гэты тып



Калёсы.

вазоў меў большае пашырэнне, яго зрэдку можна сустрэць і ў наш час. У цэнтр. і зах. раёнах найб. пашыраным тыпам рабочых К. была *мажара*, або драбіны. Да пач. 20 ст. сяляне рабілі колы амаль цалкам з дрэва. Драўлянымі былі нават шворны, падгерцы (падшворнікі), атосы, загваздкі. У пачатку 20 ст. пашырыліся К. на жалезным ходу, што прывяло да некаторых змен у іх канструкцыі. Рамеснікі, што выраблялі К. і колы, наз. стальмахамі. Стальмашнае рамяство стала цесней спалучацца з кавальствам. *В. С. Цітоў.*

**КАЛІНКАВІЦКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Усходнім Палессі. Бытаваў у 19—1-й пал. 20 ст. пераважна ў Калінкавіцкім, Светлагорскім і Жлобінскім р-нах. Адметны дасканала распрацаванай і выверанай арнаментыкай натыканя і вышывак, своеасаблівымі з мноствам пышных фальбонак каўнярамі жаночых кашуль, прыгожымі багата аздобленымі гарсэтамі. Аснову жаночага летняга гарнітура складалі кашуля, спадніца-андарак, фартух, гарсэт, галаўны ўбор. Кашулю шылі з 3 полак даматканага белага палатна, з прамымі плечавымі ўстаўкамі, адкладным (стаяча-адкладным) прышытым ці здымным каўняром з мноствам пышных фальбонак, надобным да каўняра зах.-еўрап. свецкага касцюма 16 ст. Аздаблялі кашулю натыканнем (пераборы), вышыўкай (працягам, пляцёнкай, крыжыкам, сакаленнем) на каўняры, рукавах (шырокая палоса арнаменту ў верхняй частцы рукава ў адных выпадках рэзка абрывалася, у другіх — паступова пераходзіла ў больш лёгкі, празрысты малюнак), плечавых устаўках, падоле, а таксама карункамі, мохрыкамі, нашыўкамі тканін. Спадніцу-андарак кроілі з 4 полак даматканага сукна ў вертыкальныя пункцірныя разнаколерныя паскі на сакавіта-малінавым фоне, («андарак у граты») і ў разнаколерныя паскі на цёмна-чырвоным фоне, якія ўтваралі буйную клетку («андарак у краты»). Да верху спадніцы, сабранага ў дробныя складкі, прышывалі спец. вытканы пояс. Фартух шылі з 2 полак палатна, злучалі іх дэкаратыўным швом-расшыўкай. Белае поле фартуха натыкалася строгім арнаментам з прамавугольнікаў і квадратаў (дымкі, акенцы) і тонка распрацаваным арнаментам гарызантальных палос. Гарсэт шылі з тонкага даматканага, злёгку прываленага сукна або фабрычных тканін — шарсцянкі, аксаміту, атласу, саціну чорнага (радзей цёмна-фіялетавага, цёмна-вішнёвага ці сіняга) колеру. Кроіўся прыталеным з баскай у форме 4 кліноў або пышнай фальбоны, зашпіляўся спераду на гаплікі. Крыссе яго абапал засцежкі аздаблялі пашыўкай тасьмы розных колераў (тасёмкі ўтваралі 4—6 кветак у 2 рады або кампанаваліся ў строгі малюнак геам. арнаменту), упрыгожвалі металічнымі і касцянымі гузікамі, машыннай ці ручной строчкай. Традыц. галаўнымі ўборамі дзяўчат былі вянкі, розныя паводле крою і аздаблення павязкі накшталт маленькіх ручнікоў — скіндачкі. Замужнія жанчыны насілі наміткі (завівала), хусткі, чапцы са скіндачкамі, донца якіх вышывалася густым чырвоным арнаментам. Аснову мужчынскага адзення складалі кашуля з поясам і нагавіцы. Тунікападобную кашулю шылі з белага кужэльнага палатна, аздаблялі паскамі геаметрычнага арнаменту на каўняры, пазусе, плячах, рукавах і падоле. Адзенне дапаўнялася галаўным уборам (магерка, аблавуха), скураной кайстрачкай-калітой, а таксама скураным чэхлікам для ножыка, грабеньчыка.

*М. Ф. Раманюк.*

**КАЛІНКАВІЦКІЯ РУЧНІКІ,** традыцыйныя тканыя ручнікі, якія вырабляюцца пераважна ў Калінкавіцкім, Светлагорскім, Жлобінскім р-нах. Вядомы з сярэдзіны 19 ст. Даўжыня 310—400 см, шырыня 26—30 см. Ткуць у 2—4 ніты. Кампазіцыя ручнікоў бывае 2 відаў: у адных папярочныя вузкія палосы аднолькавай шырыні запаўняюць усё поле ручніка, у другіх — шырокія папярочныя шчыльна запоўненыя ўзорыстыя палосы на канцах ручніка паступова пераходзяць у вузейшыя да сярэдзіны і раствараюцца ў яго асноўным фоне. Пераважае старадаўні геаметрычны арнамент у выглядзе ромбаў, квадратаў, трохвугольнікаў, крыжыкаў і інш. Для К. р. характэрна выразнае рытмічнае чаргаванне ўзорыстых каляровых і белых палос. Каляровая гама ручнікоў стрыманая чырвона-белая, радзей чырвона-бела-чорная. Ткуць з ільняных і баваўняных (белька, горынь, забалач) ніток.





Ручнік. Вёска Убалаць Калінкавіцкага раёна. 1930-я г.

Ручнік. Вёска Хутар Светлагорскага раёна. 1910-я г.





**Калінкавіцкі строй.** Жанчыны ў святочным адзенні. Вёска Мармарычы Светлагорскага раёна (уверсе) і вёска Залатуха Калінкавіцкага раёна.

Акрамя ўзорыстага ткацтва (тэхніка бранага, шматнітовага ткацтва), аздабляюць вязанымі кручком карункамі, вышыўкай (працяг, падліковая гладзь), пaскамі (кавалкі задрапіраванага ў складкі белага паркалю), махрамі. У дэкоры К. р. шмат агульнага з *калінкавіцкім строем*. К. р. неаднаразова экспанаваліся на выстаўках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў рэспубліцы, а таксама ў Ленінградзе, Маскве, Ноўгарадзе. *М. Ф. Раманюк.*

**КАЛІ́ННІЦА,** страва з мукі і ягад каліны. Жытнюю муку запарвалі варам, калі яна «ўсалодае», сыпалі ягады каліны. Сушаныя ягады спачатку запарвалі варам і варылі. Елі К. з хлебам.

**КАЛІТА́,** невялікі падвесны скураны кашалёк-кішэня; тое, што і *шабета*.

**КАЛО́ДА,** зроблены з суцэльнага кавалка дуплістага дрэва (пераважна хвоі) *вулей*. Лакальныя назвы бучак, даўбянік, корань, наварацень, стаўбун, стаўка. Працэс вырабу К. аналагічны выдзёўбванню *борці*. Найбольш масіўныя К. (акружнасцю да 2,2 м) рабілі з камля. Больш устойлівай была вышыня 1,1—1,65 м. Адметнымі рэгіянальнымі асаблівасцямі вызначаліся *ляткі*, пракручаныя ў адмысловых паглыбленнях К. трохкутнай, ромбападобнай, авальнай, паўавальнай, шчытападобнай і інш. формы, якія выконвалі ролю прылётнай дошкі. Па спосабу ўстаноўкі К. падзяляліся на стаякі (ставілі вертыкальна на драўляных падстаўках) і лежакі (ставілі на козлах гарызантальна ці пад вуглом 45° адносна паверхні зямлі). Канструкцыйна К. адрозніваліся ад борці накрыўкай, якую дадаткова прыкрывалі яловай карой, лубам ці бяростай і прыціскалі дубовым плашчаком ці пляскатым каменем. Дакладны час паяўлення К. не вызначаны. У паэме М. Гусоўскага «Песня пра зубра» (1523) К. згадваюцца як рэаліі добра вядомыя і шырока распаўсюджаныя. Від таго, першым калодным вуллем была борць, выпіленая з паваленага навальніцай бортнага дрэва. Паводле звычаёвага права, кадыфікаванага ў 16 ст. Статутам Вялікага кн. Літоўскага і пацверджанага «Уставай на валокі» 1557, бортніку дазвалялася выпілоўваць са зламанага дрэва і вывозіць з лесу толькі борць, а верхавіну, камель з караннямі абавязкова пакідаць. Спачатку К. істотна не ўплылі на традыцыйны характар пчалярства, якое падобна бортніцтву заставалася выключна лясным заняткам. К. ўстанаўлівалі на *падкурах*, пазней на 2 паралельных брусах, якія ўрэзвалі ў ствол ці тоўстыя галіны дрэва. Для пад'ёму К. на дрэва выкарыстоўвалі *кадол*. Пастунова разам з ляснымі сталі ўзнікаць сядзібныя пасекі, што было абумоўлена экалагічнымі і сацыяльна-эканамічнымі прычынамі: масавай высечкай лесу, распаўсюджваннем такіх лясных промыслаў, як здабыча смалы-жывіцы, выраб паташу, выпальванне драўлянага вугалю, нарыхтоўка лесаматэрыялаў, а таксама павелічэннем мядовага падатку (да 18 ст. з сядзібных пасек не спаганяўся). Пераносілі К. на сядзібу і састарэлыя пчаляры, якія па стану здароўя не маглі займацца лясным пчалярствам. К. ставілі на агародных межах, у садах, каля гумнаў і інш. Пасечнае пчалярства, якое дазваляла перавозіць К. з месца на месца і ўстанаўліваць іх на зямлі, значна аблегчыла працу, эканоміла час, пазбаўляла пчаляра залежнасці ад уладальніка лесу, забяспечвала лепшы догляд пчол і кантроль за развіццём пчалінай сям'і. У 18 ст. К. амаль поўнасцю выцеснілі борць і сталі асноўным відам



Калода (ляжак).



Калода (стаяк).

пчалінага жытла. На Палессі ў канцы 18 ст. нават у цяглых сялян (яны мала займаліся пчалярствам) было ў сярэднім па 1,5 К. на гаспадарку. У сярэдзіне 19 ст. колькасць К. значна павялічылася (у Мазырскім пав. ў сярэднім на сялянскі двор прыпадала тры калодныя вуллі). У пач. 20 ст. ў асобных сялян-палешукоў (в. Рашотнікі Рэчыцкага пав.) было да 300 К., для абслугоўвання якіх выкарыстоўвалася наёмная праца. Яшчэ большыя пасекі былі ў засцянковай шляхты (напрыклад, да 500 К.). Пры добрым узятку з кожнай К. бралі па тры вядры мёду. Некаторыя пчаляры-аматары выкарыстоўваюць К. і ў наш час. Многія пчаляры перарабілі К. на рамовыя вуллі, пашырыўшы камеру і надаўшы ёй прыдатную для размяшчэння рамак форму.

*С. Ф. Цярохін.*



Калода (стаяк).

**КАЛО́ДА,** прыстасаванне для апрацоўкі скур (мяздрэння, галення), паўкруглая нахіленая дошка на дзвюх ножках. У некаторых месцах называлася кабылка, аполак. Пашырана была па ўсёй Беларусі.

**КАЛО́ДЗЕЖ,** гідратэхнічнае збудаванне накшталт квадратнай або круглай у плане шахты для здабывання грунтавых вод; тое, што і *студня*.

**КАЛО́ТКА** (ад «калатаць» біць), самагучальны сігнальны музычны інструмент. Называўся таксама ляхотка (ад ляскаць). Уяўляе сабой драўляную прамавугольную дошчачку з адтулінай пасярэдзіне, у якую ўстаўлена драўляная ручка. Да аднаго канца ручкі (таго, што выступае наверх дошчачкі) прымацаваны малаток. Пры рэзкіх хуткіх узмахах рукі малаток, які круціцца вакол сваёй восі на паўабарота, моцна ляскае аб дошчачку. Удары гучныя, раскацістыя. Да нядаўняга часу К. выкарыстоўвалі вартаўнікі як вартаўніча-апавяшчальны інструмент. У наш час існуе як атрыбут касцёльнай службы, які «замяшчае» арганы і званочкі ў вялікі пост. Бытуе ў Зах. і Цэнтр. Беларусі.

*І. Дз. Назіна.*

**КАЛЫМА́ЖКА,** выязны чатырохколавы экіпаж для коннай запрэжкі, прыстасаваны для камфортнай пасажырскай язды; тое, што і *брычка*.

**КАЛЫ́СКА,** з ы б к а, л ю л ь к а, дзіцячы ложак; даўні від народнай мэблі. Рабілі з дошак ці рэечак; у Зах. Беларусі (асабліва ў Панямонні) плялі з лазовых дубцоў, ракіты, карэнняў у выглядзе доўгага кошыка (часам з казырком); падвешвалі на чатырох почапках да столі ці бэлькі, часцей — да жэрдкі, якая адным канцом затыкалася за бэльку. Для зручнасці калыхання да К. мацавалі вяроўку (можна было калыхаць нагой або на адлегласці). Найбольш просты від К. уяўляў сабой кусок палатна, што нацягваўся на драўляную раму. Такую К. было зручна браць у поле, дзе яе падвешвалі



Калотка.

на трынозе, абгарнуўшы наверх абрусам ці посцілкай, нібы парасонам. З канца 19 ст. пашырана К. ў выглядзе невялікага ложка на ножках, падбітых папарна дугападобнымі брускамі. К. часта аздаблялі працілоўкай па краях дашчаных спінак, фігурнымі прафіляванымі накладкамі, точанымі ці разьбянымі элементамі, з якіх набіралі рашэцістыя бакавіны. Плеценыя з лазы К. дэкарыравалі спалучэннем розных спосабаў пляцення. У наш час самаробныя К. амаль выйшлі з ужытку, саступіўшы месца каляскам і ложкам прамысловай вытворчасці.

*Я. М. Сахута, В. С. Цітоў.*

**КАЛЭ́СА** Філарэт Міхайлавіч [5(17).7.1871, с. Пяшчаны Стрыйскага р-на Львоўскай вобл.—3.3.1947], украінскі сав. музыказнавец-фалькларыст, этнограф, літаратуразнавец, кампазітар. Акад. АН УССР (1929). Скончыў Львоўскі ун-т (1896). Да 1929 выкладаў у гімназіях, з 1939 праф. і адначасова (з 1940) дырэктар этнагр. музея Львоўскага ун-та імя І. Франка. К.— заснавальнік укр. музычнай этнаграфіі. Распрацоўваў праблемы гісторыі, тэорыі і эстэтыкі творчасці ўкр. народа, параўнаўча даследаваў славянскі фальклор, сувязі нар. і прафесійнага мастацтва, пытанні методыкі збірання і сістэматызацыі фальклору. У 1932 з К. Машынскім зрабіў экспедыцыю на Палессе, дзе запісаў 220 бел. нар. песень і 26 інструментальных мелодый. Частка матэрыялаў апублікавана ў арт. «Народная музыка на Палессі» (1939). Аўтар харавых і літаратуразнаўчых твораў, апрацовак укр. нар. песень.

*Т. Б. Варфаламеева.*

**КАЛЯДАВА́ННЕ,** народны традыцыйны звычай хаджэння каляднікаў па хатах на *каляды* з выкананнем велічальных калядных песень, тэатралізаваных сцэнак, пераапрананнем у «казу», «мядзведзя», «кабылу», «жорава». За гэта каляднікам давалі дарункі (сала, каўбасы). У аснове К.— старажытная аграрная абраднасць, агульным прызначэннем якой было паскарэнне надыходу цяпла (паводле нар. выразу «ад



**Калыска.** Вёска Харомск Столінскага раёна.

каляд сонца паварочвала на лета») і забеспячэнне добрага ўраджаю ў новым гасп. годзе пры дапамозе магічных дзеянняў. Як рэшткі зімовых язычніцкіх святкаванняў К. забаранялася царквой. З цягам часу яно набыло характар забавы. У калядныя дні, у вечар перад Новым годам (с. ст., на другую куццю, якая ў народзе называлася багатай, шчодрай, тоўстай, мясной), адбывалася шчадраванне: дзяўчаты хадзілі па хатах са «шчодрай» (прыгожай дзяўчынай, якую апраналі ў святочнае адзенне, а на галаву надзявалі папяровы вянок з разнаколернымі стужкамі) і выконвалі шчадроўскія песні (вельмі блізкія да калядных песень), якія ўслаўляюць гаспадара, гаспадыню, іх дзяцей.

*А. І. Гурскі.*

**КАЛЯ́ДЫ** (ад лац. Calendae календы — назва першага дня кожнага месяца ў рымлян, ці ад слова ко́ла), народнае

зімовае свята дахрысціянскага паходжання. У гадавым крузе нар. аграрных абрадаў і святкаванняў храналагічна займала першае месца. Царква прымеркавала да стараж. К. рэлігійныя святы нараджэння Хрыста і вадохрышча, таму за К. замацаваўся час з 24 снежня па 6 студзеня (с. ст.)





**Калыска.** Вёска Градзілава Маладзечанскага раёна. 1930-я г.

**Калыска.** Вёска Вязынка Маладзечанскага раёна. Дом-музей Я. Купалы. Пачатак 20 ст.

уключна. Для абраднасці К. характэрны тры абрадавыя вячэры (куцці): посная (вялікая) спраўляецца перад першым днём свята, багатая (тоўстая, шчодрая, мясная) перад Новым годам і посная (галодная, вадзяная) перад вадохрышчам. Абавязковай стравай была ўласна куцця — ячная каша. У час К. наладжвалі *калядаванне,* варажбу, шматлікія забавы, гульні, спявалі калядныя песні, у якіх віншавалі гаспадароў хаты, жадалі ім дабра і заможнасці, усслаўлялі іх працавітасць і шчодрасць, дабрадушна кпілі з малалеткаў, дзеда ці старой. *А. І. Гурскі.*

**КАЛЯНДА́РНА-АБРА́ДАВАЯ ПАЭЗІЯ,** від фальклору, які суправаджаў аграрныя святы і працу земляроба на працягу гаспадарчага года. Яе вытокі ў родавым грамадстве.

У самым стараж. пласце каляндарных абрадаў, павер'яў, песень праглядае культ сонца. Невыпадкова і найбольшыя земляробчыя ўрачыстасці, святкаванні, у першую чаргу *каляды, купалле,* прыпадалі на зімовае і летняе сонцастаянне. Назіранні стараж. чалавека над кругазваротам сонца, зменамі ў прыродзе, біялагічнымі цыкламі раслін і жывёл склаліся ў сістэму поглядаў, якія выразіліся ў аграрна-магічных абрадах, павер'ях, каляндарных прыметах, прыказках, песнях. Чалавек першабытнага грамадства імкнуўся разгадаць таямніцы прыроды, паўплываць на іх, каб забяспечыць аснову дабрабыту сям'і — ураджай, захаваць статак. Жаданага ён спадзяваўся дасягнуць заклінаннем магічным словам, абрадавым рытуалам. З развіццём грамадства К.-а. п. шырока адлюстроўвала працоўную дзейнасць земляроба, маральна-этычныя ўяўленні народа, яго характар, паэтычны погляд на свет, прыроду, чалавека.

Бел. каляндарна-абрадавая творчасць як з'ява нац.-адметная, са сваёй лексічна-вобразнай структурай, жанравай і ладава-інтанацыйнай спецыфікай склалася не пазней 14—16 ст. У цэлым яна ўяўляе сабой складаную многасастаўную сістэму. Паэзія бел. земляробчага (ратайскага) календара ўключае звыш 20 жанравых і групавых песенных разнавіднасцей. Яна буйна развілася, добра захавалася і складае своеасаблівы феномен бел. нац. паэтычнапесеннай культуры. Цыклізацыя К.-а. п. абумоўлена кругаваротам у прыродзе, чаргаваннем пор года. Вылучаюцца 4 вял. цыклы гэтай паэзіі: веснавы, летні, асенні і зімовы. Кожная пара года, кожны сезонна-вытворчы перыяд у сялянскім календары мелі адпаведныя ім абрады, звычаі, павер'і, песеннае суправаджэнне. Агульнае ў іх — шырокая аграрная аснова, мэтавая ўстаноўка, асобныя матывы, што вынікалі з яе. Усе каляндарныя абрадава-песенныя комплексы былі прасякнуты думай пра будучыню роду, клопатамі пра тое, каб у найспрыяльнейшы час засеяць ніву, захаваць ураджай ад стыхій, статак — ад памору і дзікіх звяроў, у пару сабраць плён. Аднак толькі гэтай, галоўнай, функцыяй змест К.-а. п. не вычэрпваўся. Мела яна і гулліва-пацешлівае прызначэнне, немалую эстэтычную вартасць. Пры пераемнасці некаторых абрадавых элементаў, нераклічцы асобных матываў кожны песенна-каляндарны цыкл вызначаецца разнастайнасцю і своеасаблівай непаўторнасцю. Гэта абумоўлена прыроднымі асаблівасцямі кожнай пары года, неаднолькавым характарам працы, клопатам земляроба ў іх.

Зімовы перыяд у сялянскім календары меў падрыхтоўчы характар. Абрады і песні зімовага цыкла былі накіраваны на тое, каб загадзя паўплываць на будучы ўраджай, захаваць азімы пасеў, рунь на палях. У зімовым перыядзе паэтычнага календара насычанасцю абрадамі, песнямі вылучаліся святкаванне беднай *куцці,* каляд (25 снежня с. ст), шчадрухі — багатай куцці ў пярэдадзень Новага года. Шмат увагі аддавалася аграрнай і любоўнай варажбе, розным гаспадарчым павер'ям і прыкметам. Зорнае неба на куццю абяцала добры ўраджай на ягады і грыбы ў новым годзе, іней на дрэвах — багатую квецень у садах, снег і мяцеліца — знак таго, што ўлетку будуць добра раіцца пчолы. У аснове такіх уяўленняў, павер'яў ляжыць сімільная магія. Вызначальнае месца ў зімовым каляндарна-абрадавым цыкле належала *калядаванню* і шчадраванню. Паэтычнае ядро яго складалі калядкі і шчадроўкі, песні, што ўвабралі ў сябе побыт і помыслы земляроба і вызначаюцца метафарычнасцю і пластыкай вобразаў. Піліпаўскія песні выразных жанравых адзнак не мелі. Зімовы цыкл уключаў ігрышчы, драматычныя паказы з пераапрананнем, абрадавае «ваджэнне казы» на багатую куццю (пярэдадзень Новага года), аграрна-шлюбную гульню *«Жаніцьба Цярэшкі»* і інш. На мяжы двух цыклаў — зімовага і веснавога — развіліся масленічныя, або запусныя, песні. Масленічныя абрады мелі прызначэнне наблізіць вясну, перадавалі гуллівы настрой удзельнікаў святкавання (гл. *Масленіца).*

Веснавыя абрады і песні былі закліка免 стараж. земляробам асвячаць асабліва адказны перыяд у яго жыцці — пачатак палявых работ, час веснавых усходаў, выгану жывёлы на пашу. Прызыванне (гуканне) вясны, песні-вясняне, абрад валачобніцтва (гл. ў арт. *Валачобнікі*) і валачобныя песні, пачатак ваджэння карагодаў, абрадавы выган жывёлы на юр'еву расу (23 крас. с. ст.), ушанаванне памяці продкаў на *радаўніцу, сёмуха* з культам расліннасці, *русальны тыдзень,* абрад *куста,* песні траецкія, русальныя, куставыя складалі змест веснавога каляндарна-абрадавага цыкла.

Летнія абрады і песні павінны былі зберагчы збажыну ў пару даспявання, паспрыяць паспяхоўваму збору ўраджаю. Абрады, звычаі, павер'і, легенды купалля нясуць на сабе адбітак глыбокай даўніны, маляўнічыя паводле зместу і формы. Купальскія і пятроўскія песні пранікнёна паэтызуюць хараство прыроды ў час яе найб. росквіту, ствараюць поўныя паэзіі і першароднай чысціні дзівочыя вобразы. Невялікую групу ў летнім цыкле складаюць песні касецкія, або сенакосныя. Купальскія і пятроўскія песні сваімі мелодыямі яшчэ блізкія да познавеснавых. Уласна летнімі, паводле сталай нар. традыцыі, лічацца жніўныя песні з іх разнавіднасцямі — зажынкавымі і дажынкавымі. Жніўныя песні непасрэдна перадаюць атмасферу самай гарачай пары года ў жыцці сялянскай сям'і —

жніва, цяжкай, у мінулым наднявольнай працы, перажываннях жняі. Сацыяльныя адносіны асабліва добра выяўлены ў песнях прыгоннай пары. Важны момант летняга цыкла — *дажынкі* і звязаныя з імі песні.

Асенні перыяд земляробчага календара быў бедны на абрады. Ён звязаны з уборкай яравых, браннем і апрацоўкай ільну, сяўбой азімых — заканчэннем палявых работ. Характарызаваўся перавагай у песнях перадвясельных матываў, развіццём у ім моцнага лірычнага пачатку. Сярод восеньскіх свят вылучаліся *пакровы, багач* (суправаджаўся аграрным абрадам) і асабліва змітраўская дзяды — *асяніны*, прысвечаныя ўшанаванню памяці продкаў. У рамках трох сезонна-вытворчых перыядаў — веснавога, летняга і асенняга — бытавалі талочныя песні, песні працоўнай узаемадапамогі. Разам з валачобнымі і восеньскімі яны складаюць нац. спецыфіку паэзіі бел. земляробчага календара.

К.-а. п.— шматжанравая. Яна ўключае паэтычныя абрады, звычаі, заклінальныя, велічальныя, баладныя, лірычныя і жартоўныя песні, рацэі-прыгаворы, прыказкі, прымаўкі, легенды. У каляндарных прыказках і прымаўках знайшлі адлюстраванне назіранні над прыродай, шматвяковая земляробчая практыка селяніна, філасофскія абагульненні. Многія з іх мелі практычны сэнс, насілі характар парад («Сей авёс у гразь—будзеш, як князь», «Якое семя, такое і племя», «Прыйшоў багач, кідай рагач (саху), бяры сявеньку і сей памаленьку» і інш.). Каляндарныя песні ўзялі сваю выяўленчую палітру ад прыроды працоўна-вытворчага побыту земляроба. Міфалагічныя, народжаныя фантазіяй вобразы ў іх суседнічаюць з узятымі з рэальнага жыцця, створанымі паводле законаў рэаліст. мастацтва. Вобразы сонца, вясны, жыта, купалкі, спарыша, талакі, зімы падаваліся побач з вобразамі гаспадара-земляроба, хлопцаў, дзяўчат, жняі-пастацянкі і інш. К.-а. п., асабліва велічальныя песні, шырока карыстаецца гіпербалай, беручы параўнанні з касмічнай і гасп. сфераў. Яна мае свае адметныя сталыя эпітэты (вясна-красна, сонца ярае, раса мядовая, жыта каласістае і ядраністае, сярпы сталёвыя або залатыя, поле руннае, сяўня залатая, віно зелено).

Старажытны пласт каляндарнай паэзіі вылучаецца сцісласцю формы, эканомнасцю слова і яго выяўленчай выразнасцю. Царква і касцёл стараліся ўздзейнічаць на стараж. земляробчыя святы, абрады, звычаі, каляндарную песнятворчасць. Аднак уплыў хрысціянства закрануў нар. паэзію толькі вонкава. Нар. паэтычная стыхія толькі часткова ўспрыняла асобныя элементы хрысціянскай міфалогіі, перапрацаваўшы іх адпаведна стыхійна-матэрыялістычнаму бачанню свету. Юрый, Мікола, Ілья, Пятрок з песень гадавога круга — сяляне-земляробы, ратаі і сейбіты. І клопат іх пра жыта каранастае, ядраністае, юр'еву расу ў дзень першага выгану статка ў поле, пра пагодлівы сенакос і спорны ўжон жыта, раі семяністыя ды мядзістыя — чыста сялянскі клопат. Арэал пашырэння бел. К.-а. п. ў асноўным супадае з бел. этнічным абшарам. Аднак не ўсе каляндарныя жанры раўнамерна пашыраны. Рэгіёнам інтэнсіўнага бытавання К.-а. п. з'яўляецца Паўн. і Цэнтр. Беларусь. Калядкі і шчадроўкі сканцэнтраваны пераважна на Палессі, вяснянкі — на ПдУ. З карэннымі зменамі ў вытворчым укладзе сялянства ў сав. час каляндарныя абрады страцілі першапачатковую магічную прадуцыруючую функцыю, перайшлі ў звычаі, часткова забыліся, зберагліся часцей у форме гульні, забавы. Строгая прымеркаванасць асобных песень парушылася. Некаторыя з іх трапілі ў інш. цыклы, перайшлі ў дзіцячы фальклор. Аднак асн. песенны фонд каляндарнай паэзіі яшчэ трывала захоўваецца ў памяці старэйшага пакалення. Жывучасць К.-а. п. абумоўлена багатымі векавечнымі традыцыямі яе на Беларусі, класічнай маст. завершанасцю. Менавіта высокая маст. вартасць лепшых здабыткаў каляндарнай паэзіі і мелодый вызначыла іх непераходнае значэнне для прафесіянальнай культуры — літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва.

*А. С. Ліс.*

**КАМАЕ́ДЗІЦА**, старадаўняе свята, якое спраўлялі ў пачатку вясны, калі заканчвалася спячка мядзведзя і ён вылазіў з бярлогі. Ёсць сведчанне, што ў 19 ст. яно адбывалася ў сакавіку перад хрысціянскім святам *благавешчання*. На К. гатавалі і елі гарохавую кашу — т. зв. камы (адсюль назва), сушаны рэпнік, аўсяны кісель. Гэтыя стравы лічыліся любімай ежай мядзведзя і былі абрадавымі стравамі святочнага абеду, пасля якога сяляне кладліся на палаці і пераварочваліся з боку на бок, імітуючы звычкі мядзведзя. Свята К. дахрысціянскага паходжання. Яго вытокі звязаны з *татэмізмам*. К.— водгалас пакланення мядзведзю, яго шанавання. Абрадавымі дзеяннямі імкнуліся ўлагодзіць, задобрыць звера. Свята К. зафіксавана на Бягомльшчыне, дзе былі вял. лясы, у якіх вялося многа мядзведзяў, і яны часам шкодзілі свойскай жывёле, выклікалі страх у людзей. У 19 ст. свята страціла ранейшы сэнс, стала традыцыйнай забавай. У апошняй чвэрці 19 ст. яно зусім знікла з побыту. *М. Ф. Піліпенка.*

**«КАМА́РЫКІ»**, імправізаваны сольна-масавы танец. Асноўныя рухі — дробныя крокі і падскокі на месцы з прыціснутымі да тулава локцямі («таўкліся, як камары ў ясны дзень»). Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Мінскай і Гомельскай абласцях.

**«КАМА́РЫНСКАЯ»**, імправізаваны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі, часам шпаркі. Выконваць могуць мужчыны, жанчыны, дзеці, пажылыя; танец — сольны, парны, масавы. Адметнасць і прыгажосць яго ў змяшэнні нацыянальных асаблівасцей розных народаў. «К.» — своеасаблівае калейдаскапічнае спалучэнне харэаграфіі беларусаў, рускіх, украінцаў, цыган, татар, каўказцаў, армян, таджыкаў, малдаван і інш. Выканаўца вар'іраваў і камбінаваў калены па свайму густу ў залежнасці ад фантазіі і настрою. «Ён падскокваў, як запарожскі казак, падаў плазам на зямлю, як гэта бывае ў «Харумі», насоўваў тышова па-руску шапку на вочы, падкідаў ўгару і кідаў на зямлю, круціўся ваўчком, тросся, як калмык..., пляскаў у далоні, пахлопваў сябе, як цыган, па грудзях, пятках, каленях; адбіваў уральскія «дробы», «часціў» па-беларуску нагамі; рабіў усялякія дзіўныя «прысядкі», «вінты», «колы», «выкрунтасы», «шпыні», «выхілясы» і інш.» (Галяйзоўскі К. Вобразы рускай народнай харэаграфіі. М., 1964. С. 294). Але якія б формы ні прымаў малюнак кален, унутраны выгляд «К.», як і мелодыя, аставаўся нязменным. На Беларусі пашыраны паўсюдна, асабліва ў раёнах, сумежных з Расіяй. Бел. варыянт танца адрозніваецца ад іншых найбольш ярка выяўленай бел. харэаграфічнай лексікай. Але ў цэлым інтэрнацыянальны характар яго захоўваецца. *А. Л. Варламаў.*

**КАМАСА́ЦЫЯ**, звядзенне ў адзін участак сялянскіх зямель, размешчаных раней цераспалосна; адзін з элементаў аграрнай рэформы ў бурж. Польшчы, у т. л. ў Зах. Беларусі. Рэформа абвешчана ў 1919, праводзілася ў 1920—30-я г. паралельна з *парцэляцыяй*, асадніцтвам (гл. ў арт. *Асаднікі*) і ліквідацыяй *сервітутаў* паводле закона аб ліквідацыі цераспалосіцы (1923) і закона «Пра парцэляцыю, камасацыю і асадніцтва» (1925). Мела на мэце выселіць сялян на *хутары*, умацаваць кулацтва і адцягнуць сялян Зах. Беларусі і Зах. Украіны ад рэв. барацьбы. У большасці выпадкаў праводзілася прымусова. Расходы на К. (утрыманне каморнікаў, аплата спец. падаткаў, перасяленне на хутары) цалкам перакладаліся на сялян. Бяднейшым сялянам даставаліся горшыя землі. Закон абавязваў памешчыкаў, якія мелі больш за 60 га ў раёнах вял. гарадоў ці больш за 160 га ў інш. мясцовасцях, прадаваць «лішнія» землі па рыначных цэнах сялянам і асаднікам — участкі зямлі па 15 га ў Польшчы і па 26 га ў Зах. Беларусі і Зах. Украіне. З 1 млн. га зямлі, прададзенай памешчыкамі ў 1926—30, кулакі і асаднікі купілі 90 %. Сяляне Зах. Беларусі супраціўляліся прымусоваму правядзенню К. Як і ўся аграрная рэформа, яна абвастрала класавую барацьбу. *І. П. Хаўратовіч.*

**КАМЕ́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, месцы пахаванняў, якія складаюцца з паўшарападобных прадаўгаватых ці прамавугольных каменных пахавальных збудаванняў; археалагічныя помнікі канца 10 — пач. 17 ст. Асноўны арэал іх раз-

мяшчэння на Беларусі — Гродзенская вобл. (супадае з арэалам т. зв. *Чорнай Русі*); адзінкавыя помнікі зафіксаваны ў Барысаўскім р-не, на Пд Віцебскай і Пн Брэсцкай абласцей. Сустракаюцца таксама ў Літоўскай ССР, на У Польшчы. Паводле этнічнай прыналежнасці — балтаславянскія. Найчасцей К. м. размяшчаюцца на ўзвышаных месцах ці на схілах узвышшаў. Колькасць пахаванняў (пераважна з трупапалажэннем) звычайна не перавышае 70—100 магіл, але вядомы помнікі, дзе да 150—200 магіл (каля вёсак Куклі Воранаўскага, Клепачы Слонімскага, Вензаўшчына Шчучынскага р-наў). Магілы пераважна размешчаны ў мерыдыяльным напрамку: цягнуцца няроўнымі радамі з ПнУ на ПдЗ. На могільніку каля в. Клепачы — радыяльная сістэма пахавання: найбольш стараж. пахаванні ў цэнтры, больш познія — па краях. Магілы размешчаны групамі па 2—5 (відаць, сямейныя пахаванні) і не побач (паралельна), а пасунуты ў той ці іншы бок (згодна з нар. павер'ямі, што захаваліся да нашага часу сярод жыхароў Шчучынскага і Мастоўскага р-наў, калі родных хаваць роўнымі радамі, то паляжа пакаленне за пакаленнем, знікне ўвесь род). Кожная магіла абкладзена камянямі. У канцы 10— пач. 12 ст. кладкі-вымасткі будавалі круглай, авальнай і прамавугольнай формы; з сярэдзіны 12 ст. ў галавах ставілі вялікія камяні; у пач. 13 ст.— камяні меншых памераў ставілі ў нагах; у 13—15 ст. вялікія камяні ставілі ў галавах і ў нагах; з канца 15 ст. камяні клалі ў 2—5 паралельных радоў. Чым пазнейшай была магіла, тым вышэйшы камень ставілі ў галавах. З пач. 15 ст. з пашырэннем сярод балцкага насельніцтва хрысціянскага абраду пахавання на камянях, што стаялі ў галаве, пачалі выбіваць крыжы, салярныя знакі і інш. Да пачатку 16 ст. нябожчыкаў абкладалі дошкамі (спачатку незмацаванымі, пазней — змацаванымі драўлянымі заклёпкамі, з сярэдзіны 16 ст.— жалезнымі цвікамі). У магілы нябожчыкам клалі рэчы, якімі яны карысталіся пры жыцці. У жаночых пахаваннях (канец 10—15 ст.) знойдзены фібулы, скроневыя шматпацеркавыя кольцы, завушніцы, бляшкі ад галаўных убораў, шкляныя пацеркі, бронзавыя бубенцы, пярсцёнкі, кавалкі скуры і тканін, жалезныя нажы, ключы, іголкі і інш., у мужчынскіх — фібулы, пярсцёнкі, тапары, нажы, паясныя жалезныя кольцы, дзіды, шпоры, страмёны, тачыльныя брускі, нажніцы, манеты і інш. У пахаваннях 16—17 ст. інвентар адсутнічае, што можна тлумачыць уплывам хрысціянскай ідэалогіі.

Сярод мясцовага насельніцтва К. м. вядомы пад назвамі паганскіх, татарскіх, баярскіх, шведскіх могілак. Часта іх узнікненне тлумачаць як вынік «вайны са шведамі». Мясцовыя жыхары звязваюць з К. м. шматлікія паданні. Так, пра могільнік каля в. Навасёлкі Ваўкавыскага р-на захавалася паданне, што на вузкай дарозе сустрэліся два шлюбныя картэжы па дарозе ў царкву. Раз'ехацца яны не маглі, а саступіць дарогу ніхто не хацеў. Доўга спрачаліся, і справа дайшла да бойкі. Бог, убачыўшы такое святатацтва каля храма, пакараў упартых — ператварыў людзей у камяні і раскідаў па гары; царква ж праваліласа, а на яе месцы забруіла крынічка. Вада ў ёй лічыцца гаючай. Пра ўзнікненне могільніка каля в. Клепачы (недалёка ад воз. Бяздоннае) існуе легенда, нібыта раней на месцы возера стаяла вялікая вёска, у якую аднойчы пад выглядам старога жабрака прыйшоў бог і папрасіў накарміць яго. Аднак жыхары адмовілі яму, і толькі адна жанчына накарміла яго і дала хлеба ў дарогу. Раззлаваўшыся на скнарных жыхароў, бог рашыў іх пакараць. Жанчыне, якая пашкадавала жабрака, ён загадаў пайсці з вёскі і папярэдзіў, каб яна не аглядвалася. Пайшла жанчына, але не сцярпела і азірнулася — на месцы вёскі яна ўбачыла возера, а сама ператварылася ў камень. Жыхароў вёскі бог таксама ператварыў у камяні і раскідаў па гары. Мясцовыя жыхары расказваюць, што камень у выглядзе фігуры жанчыны з доўгай касой быў узяты ў царкву, лічыўся святым. Пазней яго вынеслі з царквы і ён знік.

*А. В. Квяткоўская.*




Каменныя могільнікі: 1 — шкляныя пацеркі з бронзавымі бразготкамі; 2 — бронзавы плецены пярсцёнак; 3 — медныя бляшкі ад галаўнога ўбору. 10—11 ст.



**Каменныя могільнікі.** Сярэбраныя шматпацеркавыя скроневыя кольцы. 10—13 ст.



**Каменныя могільнікі.** Сярэбраны пярсцёнак. Пачатак 11 ст.

**Каменныя могільнікі.** Бронзавая падковападобная фібула з заамарфнымі канцамі. 11—12 ст.

**КА́МЕНЬ,** даўняя мера масы на Беларусі. У 16 ст. быў роўны 36 фунтам, у 18 ст.— 40 фунтам (14,993 кг).

**КАМІЗЭ́ЛЬКА,** частка мужчынскага гарнітура беларусаў (найчасцей святочнага) у канцы 19 — пач. 20 ст.; від безрукаўкі. Перад К. шылі з тонкага даматканага сукна, паўсуконніка або з фабрычных тканін (карычневая, чорная, сіняя шарсцянка, корт), на палатнянай падшэўцы, прамога ці паўпрыталенага крою, спінку — з розных больш танных тканін. Апраналі К. паверх кашулі навыпуск, спераду зашпілялі на гузікі. Адметныя К. народных строяў Падняпроўя і Цэнтр. Беларусі, шытыя з даматканкі ў карычнева-белую дробную клетку *(пухавіцкі строй)* або ў частыя цёмна-сінія, цёмна-карычневыя, цёмна-зялёныя пасачкі *(магілёўскі строй)*. У наш час К.— састаўная частка класічнага касцюма-тройкі. *М. Ф. Раманюк.*

**КАМІ́НСКІ** Мсціслаў Адамавіч (28.4.1839, Вількамірскі пав. Віленскай губ.— 12.11.1868), этнограф, фалькларыст і публіцыст. Вучыўся ў Варшаўскай медыка-хірургічнай акадэміі (1860—62). Супрацоўнічаў у газ. «Kurier Wileński» («Віленскі веснік»), час. «Tygodnik ilustrowany» («Ілюстраваны штотыднёвік»), «Kłosy» («Каласы»), «Biblioteka Warszawska» («Варшаўская бібліятэка») і інш. Даследаваў матэрыяльную і духоўную культуру бел., літ. і польск. народаў. У арт. «Даяды» (1862), «Танцы люду з-над Віліі» (1864), «Прыказкі люду з-над Віліі» (1866), «Некалькі слоў пра звычаі насельніцтва ў Мінскай губерні», абразках «Уражанні з падарожжа», «Успамін аб Піншчыне» (усе 1867) і інш. падаў цікавыя звесткі пра побыт, абрады, звычаі, адзенне і фальклор беларусаў. Аўтар працы «Аб паэтычных уяўленнях літоўска-крывіцкага народа ў яго песнях» (1867), у якой адзначыў паэтычнасць бел. нар. песень. Часам паказваў адмоўныя рысы ў побыце і культуры мясцовых жыхароў, не разумеючы сацыяльна-эканам. прычын іх цяжкага становішча. *А. Ф. Літвіновіч.*

**КАМО́РА,** 1) к л а д о ў к а, гаспадарчая пабудова для захоўвання збожжа, прадуктаў харчавання; сховішча найб. каштоўнай маёмасці. Выгараджанае дошкамі, брусамі ці дылямі памяшканне

ў сенцах. Падлога і столь з дошак. Была найб. пашырана ў гаспадарках бяднейшых сялян. Заможныя сяляне будавалі *клеці*. Вядома на ўсёй Беларусі, але абавязковай пабудовай сялянскага двара не стала. У сядзібных дамах магнатаў і шляхты, у флігелях і інш. збудаваннях К. мелі і інш. прызначэнне. У многіх гаспадарках у К. рабілі «хлебныя» печы і яны набылі функцыі пякарняў (Дубіца Салігорскага, Івань Слуцкага, Астрашыцкі Гарадок Мінскага р-наў). К., якія прылягалі да жылых пакояў, паступова ператвараліся ў спальні тыпу *алькежаў* з камінамі або кафлянымі печамі-грубкамі (Гайцюнішкі Воранаўскага р-на). У некаторых дамах 16—17 ст. К. размяшчалася ў мезаніне над ганкам. Разнастайныя гаспадарчыя К. былі ў корчмах, стадолах, сырніцах, крамах, замкавых збудаваннях. У 16—17 ст. існавалі К. як асобныя збудаванні (г. Смалявічы, Кобрынскі замак). Яны былі падобныя на клеці, але мелі больш вузкае прызначэнне. 2) Кантора пры лясніцтве ў дарэвалюцыйны час. 3) У 15—18 ст.— таможня на Беларусі.

*У. С. Гуркоў, Ю. А. Якімовіч.*



**Камора.** Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

**КАМО́РА,** вясельны абрад першай шлюбнай ночы. Адбываўся пераважна ў доме маладога ў канцы *вяселля*. Называлася таксама пакладзінамі. Маладых пасля кароткай вячэры, а часам і не заходзячы ў хату, вялі ў халодную будыніну (камору, клець, гумно). Пасцель, прывезеную ад маладой, слалі родныя маладых. На зямлі рассцілалі некалькі неабмалочаных снапоў жыта, клалі ў пасцель хмель і розныя зёлкі, часам побач ставілі *каравай*. Вывернутым кажухом засцілалі парог, часам і пасцель. Маладых да К. вялі на ручніку сват або сваццяя (ці сястра маладога), за імі ішлі ўдзельнікі вяселля з песнямі, музыкай, скокамі. Згодна са звычаем маладая разувала маладога і брала з яго ботаў спецыяльна пакладзеныя туды грошы. Зачыніўшы маладых, вясельнікі спявалі жартоўныя песні, скакалі, пляскалі ў далоні, білі ў бубен, патэльню, бегаючы вакол К. Будзіць маладых у К. першай заходзіла сваццяя або сястра маладога, каб засведчыць цнатлівасць маладой (паглядзець «на калінку»). За захаванне нявестай цнатлівасці адказваў увесь яе род, страта цнатлівасці лічылася ганьбай. У такіх выпадках яе бацьку (хроснаму бацьку або яе брату) надзявалі конскую вупраж і вадзілі па вёсцы, маці давалі піць з дзіравага чарапка, сваякі маладога спявалі адпаведныя песні, яго вароты і хату абмазвалі дзёгцем, нявесту аблівалі вадой, білі. Калі ж яна была цнатлівай, у К. маладым прыносілі смажаную курыцу або яечню, вады памыцца, апраналі іх у чыстую бялізну, а кашулю маладой выносілі на паказ усім прысутным. Затым у рукавы кашулі насыпалі жыта, клалі грошы, перавязвалі чырвоным поясам і разам з бутэлькай чырвонай салодкай гарэлкі, заткнутай калінай ці мяцёлкай аўса і перавязанай чырвонай стужкай, аддавалі маладому, які разам са сваім сватам ехаў дзякаваць яе бацькам. У яе гонар на хаце маладога вывешвалі чырвоную хустку або пояс, каля варот ставілі куст каліны. Бацькі і сваякі маладой, падперазаўшыся чырвонымі паясамі, упрыгожыўшы дугі стужкамі, а сябе калінай, з песнямі, гіканнем імчаліся на конях да маладой. Іх каля варот сустракалі дачка, бацькі маладога, з вялікай пашанай запрашалі ў хату за стол, частавалі чырвонай *салодкай гарэлкай* і *салодкай кашай* з мёдам. Вясельнікі спявалі песні (т. зв. калінкі) пра добрую нявесту і яе чырвоную каліну. Іншы раз сваякі маладой скакалі на лавах, білі посуд, а бацькі маладога ўсё гэта ім выбачалі. Такое баляванне таксама называлася калінкамі або салодкімі ражкамі (пірагамі, кашай), салодкай або чырвонай гарэлкай. У наш час традыцыйны абрад К. не бытуе.

*Л. А. Малаш.*

**КАМО́РНІКІ,** 1) катэгорыя феадальна-залежнага насельніцтва ў 16—19 ст., якая не мела зямлі і ўласнага дома. Назва ад каморы (пакоя), якую наймалі для жылля. Існавалі за кошт наёмнай працы ў феадалаў і заможных сялян, рамесніцтва, дробнага гандлю. К.— людзі неаселыя і, шукаючы заработку, пераходзілі з месца на месца. Тэрмін К. быў больш пашыраны ў Зах. і Цэнтр. Беларусі, на У такая катэгорыя насельніцтва называлася падсуседзямі (16—1-я пал. 17 ст.), *кутнікамі*. У параўнанні з інш. катэгорыямі сялян колькасць К. была нязначная. Іх асн. павіннасць — чынш, памер якога залежаў ад іх плацежаздольнасці. З пашырэннем панскай гаспадаркі (канец 18 ст.) К. стала менш, у 19 ст. яны зліліся з агульнай масай сялян. 2) Землямеры, землеўпарадчыкі.

*В. І. Мялешка.*

**КАМЫ́,** 1) каша з бобу ці гароху. Звараныя боб або гарох таўклі на кашу, запраўлялі салам, часам качалі ў галушкі, елі з саладухай (Вілейскі, Пастаўскі р-ны, Магілёўшчына). Пазней на К. сталі варыць паасобку гарох і бульбу, потым разам таўклі, запраўлялі. К. рабілі таксама з тоўчаных бульбы і канаплянага ці льнянога семя. На Віцебшчыне К.— галушкі з тоўчанай бульбы і мукі, часам начыненыя (крапаныя) пасечанымі грыбамі, кавалачкам сырога сала. 2) Тоўчанае семя; макуха. 3) Каша з тоўчанай бульбы. Лакальныя назвы камяк, камá, таўканіца, бульбяная каша. Чышчаную вараную бульбу таўкуць, дадаюць гарачае малако, запраўляюць расскваранымі салам з цыбуляй або маслам, дауней у пост — тоўчаным семем. Ядуць К. з малаком, агуркамі, кіслай капустай. Вядома паўсюдна. 4) Галушкі з аўсянай або гарохавай мукі, замешанай на вадзе з соллю ў крутое цеста. Іх адварвалі, адцэджвалі і залівалі малаком, салам або прыправай з тоўчанага канаплянага семя. Пашыраны ў Верхнядзвінскім р-не.

*Г. Ф. Вештарт.*

**КАМЯ́ГА,** 1) выдзеўбанае карыта з доўгай калоды дрэва (гл. *Выдзеўбаны посуд*). Прызначалася для вадапою свойскай жывёлы і звычайна ставілася каля студні. 2) Выдзеўбаная лодка ў выглядзе карыта. У розных мясцінах К. называлі доўбанкай, дубам, дубіцай, калдубам, душагубкай. Рабілася з дубу, асіны, сасны і інш. парод дрэў. Для ўстойлівасці на плаву да К. на ўзроўні воднай паверхні па баках нярэдка мацавалі драўляныя брусы ці пласціны (крылы).

*В. С. Цітоў.*

**КАНА́Л** (ад лац. canalis труба, жолаб), штучнае рэчышча (вададвод), прызна-

чанае для суднаходства, *лесасплаву*, меліярацыі, водазабеспячэння і інш. На Беларусі К. пачалі будаваць у 18 ст. ў сувязі з развіццём гандлю і павелічэннем грузавых перавозак. З будаўніцтвам і гаспадарчым выкарыстаннем К. звязана працоўная дзейнасць многіх груп насельніцтва (гл. *Грабарства*, *Рачны транспарт*). Агінскі канал (даўжыня 54 км), пракапаны ў 1767—83, злучыў Прыпяць і Нёман праз Ясельду і Шчару. У 19 ст. ён адыгрываў значную ролю для транзітнай транспарціроўкі грузаў на суднах і лесасплаву з Палесся да прыбалтыйскіх портаў. У 1797—1805 здзейснены новы праект злучэння Балтыйскага мора з Чорным: Бярэзінская водная сістэма, якая ўключала шэраг К., каналізаваных рэк і азёраў, злучыла Бярэзіну (прыток Дняпра) з Улой (прыток Зах. Дзвіны). Скразное суднаходства па гэтай воднай артэрыі з прычыны яе абмялення спынілася ў 1830-я г., аднак лесасплаў да Рыгі ажыццяўляўся да пач. 20 ст. У 1775—84 пракапаны Мухавецкі (Каралеўскі, з 1846 наз. Днепроўска-Бугскі) канал паміж Мухаўцом і Пінай; у 1830—40-я г. праведзены гідратэхнічныя работы па яго паглыбленню. Да 1867 на гэтым водным шляху ад Пінска да Брэста пабудаваны 21 разборная плаціна і 2 водазабеспячальныя К. На тэр. БССР праходзіць частка Аўгустоўскага канала (22 км). Ён пабудаваны ў 1824—39, злучыў басейны Нёмана і Віслы праз Чорную Ганчу, Нету, Бебжу. У канцы 19— пач. 20 ст. ён служыў для малой навігацыі і лесасплаву. Побач з магістральнымі суднаходнымі будаваліся К. мясцовага значэння: абходныя, дэрывацыйныя (для выраўноўвання рэк). У 1873—84 Зах. экспедыцыя па асушэнню балот Палесся пад кіраўніцтвам І. І. Жылінскага праклала разгалінаваную сетку асушальных К. даўжынёю больш за 4,6 тыс. км, якімі карысталіся і для лесасплаву, перавозкі людзей і грузаў. Развіццё чыгуначнага транспарту ў 2-й пал. 19 ст. прыпыніла будаўніцтва суднаходных К. Некаторыя водныя сістэмы паступова прыходзілі ў заняпад. Па рэканструяваным у пасляваенныя гады Днепроўска-Бугскім канале (даўжыня 196 км, штучная частка шляху 105 км, 10 гідравузлоў, 14 вадавыпускаў, 5 земляных плацін і 3 перапады) перавозяць мінеральную сыравіну, буд. матэрыялы. У 1974—78 у Лунінецкім р-не пабудаваны Мікашэвіцкі канал (даўжыня 7 км), які злучыў Прыпяць з портам Мікашэвічы на рацэ Волхва. У 1976 здадзены ў эксплуатацыю злучальны К. Вілейска-Мінскай воднай сістэмы паміж р. Віліяй і Свіслаччу (даўжыня 62 км), у выніку чаго падняты ўзровень вады ў Свіслачы, палепшана водазабеспячэнне Мінска. Сляпянская водная сістэма ў Мінску — прыклад удалага выкарыстання К. ў сучаснай ландшафтнай архітэктуры. *Н. І. Буракоўская.*

**КАНА́ПА** (франц. canapé), шырокае драўлянае сядзенне на ножках, з падлакотнікамі і спінкай; від *мэблі*. Вядома з часоў сярэдневечча ў інтэр'ерах палацаў і сядзіб. У формах і аздабленні (разьба, абіўка са скуры ці тканін) праявіўся ўплыў мастацкіх стыляў Зах. Еўропы — рэнесансу, барока, класіцызму, ампіру і інш. З канца 19 ст. была пашырана ў *інтэр'еры хаты*, замяніла *лаву*. К. выраблялі мясцовыя майстры-саматужнікі, аздаблялі прапілоўкай па краях спінкі, такарнымі элементамі, фігурнымі накладкамі. На З Беларусі бытаваў таксама шлябан — К. з сядзеннем ў выглядзе скрыні, куды складвалі розныя рэчы. У наш час самаробныя К. саступілі месца прам. вырабам, якія звычайна ўваходзяць у гарнітур мэблі для гасцінных пакояў. *Я. М. Сахута.*



**Камяга** (карыта).



**Камяга** (лодка).



**Канапа.** Вёска Люцынка Валожынскага раёна. 19 ст.



**Канапа.** Вёска Рэчкі Вілейскага раёна. Каля 1930 г.

**«КАНАПЕ́ЛЬКІ»**, традыцыйны танец, карагод-гульня. Музычны памер пераменны — $^2/_4$, $^3/_4$ або $^4/_4$. Тэмп умерана хуткі. Выконваўся пад песню ў крузе з прытопамі. Захаваў сляды імітацыйнай магіі: у некаторых варыянтах сустракаліся скокі, якія раней выконвалі з верай у тое, што чым вышэй падскочыш, тым большыя вырастуць каноплі. Зафіксаваны ў Гродзенскай і Магілёўскай абл. На Гродзеншчыне «К.» танцавалі ў жвавым тэмпе, прытопвалі ў такт нагамі і спявалі:

Ох я, ох я,
Канапелькі церла.
Замарылася я,
Ажно не памерла.

Карагод-гульня называўся таксама «Каноплі». Дзве дзяўчыны стаяць у крузе і спяваюць:

Брала канапелькі,
Брала зялёненькі...

Астатнія ходзяць вакол іх. Пасля слоў:

Пойдзем у лес.
Мала нас.
Возьмем дружку,
Сваю таварышку —

забіраюць з карагоду адну ўдзельніцу. Гульня заканчваецца тады, калі ў цэнтр пяройдуць усе (запіс А. Ю. Лозкі, 1987, в. Дзяржынск Лельчыцкага р-на). Існуюць іншыя варыянты.

У запісе Е. Р. Раманава, змешчаным у «Беларускім зборніку» (в. 8, 1912), удзельнікі гульні выбіраюць «дзедзьку». Ён падыходзіць з чапялою да адной з удзельніц, якія сядзяць, і гаворыць: «Брала б я каноплі... ды таварышаў мала. Ты, Мар'янка, прыстань ка мне!.. Пайдзі, дзеўка, замуж: не будзеш ні палоць, ні малоць, ні су гор ваду насіць...». Тая ўстае і трымаецца за

«дзедзьку» ззаду. Калі ўсе ўдзельніцы ўтвораць «пляцёнку» за «дзедзькам», ён пачынае кашляць. Апошняя з «пляцёнкі» пытае: «Чаго ты, дзедзька, кашляеш?» — «Як жа мне не кашляць, маё дзіцятка! Набраў жонак маладых: не хочуць ні палоць, ні малоць, ні су гор ваду насіць!». Затым праганяе ўсіх, акрамя першай. З ёю ён танцуе і спявае:

Мы з табою, бабка, века векавалі,
З аднае лыжкі крупкі клювалі.

У гульнях адлюстраваны вясеннія палявыя работы, шлюбная пара; ідэйна і тэматычна яны падобны да гульні *«Жураўель»* і стараж. усх.-слав. гульні «Проса».

Музычны варыянт «К.» зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Чэрвеньскім р-не Мінскай вобласці. *А. Ю. Лозка, Ю. М. Чурко.*

**КАНАТ**, тоўстая вяроўка, што выкарыстоўваецца на рачным транспарце для замацавання якара, буксіроўкі барж і г. д. У 19 ст. з дапамогай К. бурлакі цягнулі судны супраць цячэння. Асноўнай сыравінай для віцця К. была пянька. Выкарыстоўваліся і мачальныя К. з ліпавага *лубу (мачалы)*. У канцы 18 ст. на Беларусі заснаваны канатныя мануфактуры Зорыча ў Шклове і Пацёмкіна ў Крычаве, дзе выраблялі К. для патрэб Чарнаморскага флоту. Канатныя прадпрыемствы, якія належалі купцам і мяшчанам, у 2-й пал. 19 ст. дзейнічалі ў Ветцы, Прапойску, Бялынічах, Віцебску, Рагачове і інш. У Віцебску, напр., налічвалася 15 невялікіх канатных заводаў. К. выраблялі таксама рамеснікі. У Магілёўскай губ. ў 1880-я г. саматужнікі-*канатчыкі* былі ў вёсках усіх 11 паветаў. У наш час К. вырабляюць на прам. прадпрыемствах з сінтэтычнай сыравіны. *Н. І. Буракоўская.*

**КАНА́ТЧЫКІ**, рамеснікі, што выраблялі *канаты*, а таксама рабочыя на канатных заводах.

**КАНВЕРГЕ́НЦЫЯ** (ад лац. convergo набліжаюся, сыходжуся) у этнаграфіі, незалежнае ўзнікненне аднолькавых, падобных з'яў (рыс, форм) у матэрыяльнай і духоўнай культуры, мове, самасвядомасці, сацыяльнай структуры і інш. этнасацыяльных прыкметах розных народаў, этнічных і этнаграфічных груп. К. ўзнікае на глебе аднолькавых сацыяльна-эканам., паліт., прыродна-геагр., этнагенетычных і інш. фактараў ці выпадкова. Напр., пад уплывам падобных сацыяльна-эканам. і этнагенетычных умоў на землях Беларусі, Украіны і Расіі ў эпоху ранняга сярэдневячча склаліся аднолькавыя формы раннякласавага грамадства і дзяржаўнасці (Полацкае, Кіеўскае, Наўгародскае і інш. землі-княствы), абумоўленыя падобнымі прыродна-геагр. ўмовамі — аднолькавыя формы і з'явы жыццядзейнасці (земляробства, жывёлагадоўлі, жылля, промыслаў і рамёстваў). На ўзроўні самасвядомасці і этнанімікі К. адлюстравалася, напр., у незалежным узнікненні і існаванні вызначэнняў тыпу «паляне» — у насельніцтва Кіеўскай зямлі (згодна з «Аповесцю мінулых гадоў» да 9 ст.), паўвісленскіх палян (polani, polenii, polonii — 9—11 ст.) і жыхароў Слуцкага, Капыльскага і інш. суседніх раёнаў (зафіксавана ў 19—20 ст.); у мове — ва ўзнікненні т. зв. «дзекання» беларусаў, палякаў, паўд.-усх. літоўцаў (т. зв. «дзукаў»). *І. У. Чаквін.*

**КАНДРАТО́ВІЧ** Людвік (1823—1862), польскі і беларускі паэт; гл. *Сыракомля* У.

**КАНЁК**, 1) верхняе рабро (грэбень) двухсхільнай страхі. 2) Разное ўпрыгожанне вяршынь закрылін; тое, што і *вільчык*.

**КАНІФО́ЛЬ** [ад грэч. Kolophōnia (rhētinē) калафонская смала (ад назвы г. Калафона ў Малой Азіі)], цвёрдае шклопадобнае рэчыва, якое атрымліваюць пры перагонцы смалы хваёвых дрэў — *жывіцы*. Выкарыстоўваецца ў вытворчасці паперы, сургуча, ізаляцыйных матэрыялаў, для націрання смыкоў музычных інструментаў.

**КАНСАЛІДАЦЫЯ** (позналац. consolidatio ад consolido узмацняю) у этнаграфіі, узмацненне культурнай аднароднасці насельніцтва ў выніку зліцця некалькіх, звычайна блізкіх па мове і культуры, этнічных або субэтнічных груп у больш буйную этнічную супольнасць (плямён у народнасць, народнасцей у нацыю); від аб'яднальных *этнічных працэсаў*. Вылучаюць этнагенетычную К. (зліццё некалькіх роднасных, але самастойных этнічных адзінак) і ўнутрыэтнічную К. (аб'яднанне субэтнічных груп у выніку згладжвання культурна-бытавых і моўных адрозненняў). Паказальнікам узроўню К. з'яўляецца ступень трываласці аб'яднальных тэндэнцый, якая дасягаецца ў выніку замацавання агульнаэтнічнай мовы, культуры і самасвядомасці.

На тэр. Беларусі ўжо ў 8—9 ст. адбывалася К. славянскага насельніцтва ў раннефеадальныя протанароднасці, якія ў міжэтнічных і палітычных адносінах былі самастойнымі адзінкамі з дастаткова ўстойлівымі этнонімамі (крывічы, дрыгавічы, радзімічы). Яе развіццё было спынена ў 9—12 ст. кансалідацыйнымі працэсамі ў межах усх.-слав. супольнасці, якія аднак не завяршыліся і не прывялі да нівеліроўкі рэгіянальных культурна-бытавых і моўных асаблівасцей. Апошнія склалі аснову старабел. мовы, якая ў 14 ст. стала дзярж. моваЙ Вял. кн. Літоўскага, у межах якога было аб'яднана насельніцтва Беларусі. Гэтыя абставіны стварылі спрыяльныя ўмовы для актывізацыі К. бел. народнасці. Развіццё таварна-грашовых адносін, рост гарадскога насельніцтва выклікалі ўзнікненне рэнесансавай культуры (распаўсюджанне кнігадрукавання, пісьменнасці, пачатковай адукацыі). У сваю чаргу гэта абумовіла развіццё тэндэнцый, характэрных для пачатковай стадыі нацыянальнай К.: пачалося фарміраванне літаратурнай мовы, узнік і замацаваўся этнонім «беларусы». Аднак узмацненне ў канцы 16 ст. каталіцкай экспансіі, паланізацыя вялікай часткі феадалаў, шляхты і гараджан, а таксама палітычны, эканам. і дэмаграфічны крызіс сярэдзіны 17 ст. надоўга спынілі развіццё кансалідацыйных працэсаў. Наступны этап этнічнай К. быў звязаны з утварэннем бел. буржуазнай нацыі (канец 19— пач. 20 ст.), калі сфарміраваліся асноўныя віды нацыянальнай мастацкай культуры, узнік легальны друк на бел. мове, шырока распаўсюдзілася агульнаэтнічная самасвядомасць. Разам з тым кансалідацыйныя працэсы закранулі ў асноўным толькі насельніцтва паўн.-зах. і цэнтральных рэгіёнаў Беларусі. Устанаўленне нацыянальнай дзяржаўнасці (1919) і ўз'яднанне Зах. Беларусі з БССР (1939) стварыла ўмовы для завяршэння нацыянальнай К. беларусаў. *П. У. Церашковіч.*

**КАНСО́ЛЬ**, выпушчаныя канцы верхніх вянцоў зруба. К. на падоўжных сценах звычайна рабілі даўжэйшымі, чым на папярочных. Пры пабудове *закотам* яны разам са *сволакамі* падтрымлівалі навісі двухсхільнай страхі з боку тарцовага фасада. Пры каркаснай канструкцыі страхі на К. мацуецца *дармавес* застрэшка. Часцей за ўсё К. бываюць з двух вянцоў, часам ствараецца выпускамі толькі аднаго верхняга вянца — *ачэпу*. К. трох вянцоў — рэдкая з'ява. Мае К. і дэкаратыўнае прызначэнне. Прафіліроўка К. знізу ўзмацняе эфект яе навісання, стварае выразныя лаканічныя формы. Знізу К. часам аздаблялі простымі элементамі плоскай разьбы — насечкамі, зарубкамі, елачкай і г. д. Такія формы дэкаратыўнага аздаблення асабліва пашыраны ў хатах Усх. Палесся і Падняпроўя. *С. А. Сергачоў.*

**КАНУ́Н**, традыцыйная абрадавая страва, з якой пачыналі *памінкі*. Называлася таксама канон. К. гатавалі наступным чынам: у разбаўленую мёдам ваду (сыту) крышылі спецыяльна спечаны прэсны корж, *гарачыкі*, булку ці абаранкі (паводле нар. вераванняў мёд ужывалі для таго, каб памерламу было «соладка на тым свеце»). На Чэрвеншчыне ў К. дабаўлялі цёрты мак. Першую лыжку К. адлівалі на стол для нябожчыка. Затым удзельнікі жалобнага стала чэрпалі адну або тры лыжкі К. з агульнай міскі, перадаючы яе па чарзе адзін аднаму, пасля чаго міску прыбіралі, тушылі памінальную свечку і працягвалі памінкі.

**КАНФЕСІЁНІМЫ**, назвы груп насельніцтва па іх рэлігійнай прыналежнасці (гл. *Канфесіянальная прыналежнасць*). Існуюць як назвы з боку інш. канфесіянальных груп (напр., іудзеі — людзі, якія вызнаюць іудзейскую веру, мусульмане — іслам і інш.) і як саманазвы (напр., лютэране, кальвіністы, гугеноты, менаніты — пратэстанты). Часта К. суадносяцца з пэўнымі этнонімамі як сінанімічныя паняцці (напр.,

індуісты — індусы, праваслаўныя — рускія і інш.). У 17— пач. 19 ст. ў Расіі ў якасці К. выступала назва «беларусцы», якой часам вызначалася уніяцкае насельніцтва Беларусі, Літвы і Украіны. На Беларусі ў канцы 18— пач. 20 ст. (у зах. рэгіёнах у 1-й пал. 20 ст.) некаторыя групы мясцовага каталіцкага насельніцтва бел., літоўскага і інш. паходжання вызначаліся па канфесіянальнай прыналежнасці як палякі, а праваслаўныя — як рускія і беларусы. Паслабленне рэлігійнага светабачання, рост нацыянальнай самасвядомасці і атэізму паступова адцяснялі канфесіянальны прынцып этнічнага вызначэння. У наш час К. існуюць на Беларусі па традыцыі і сярод груп веруючага насельніцтва. *І. У. Чаквін.*

**КАНФЕСІЯНА́ЛЬНАЯ ПРЫНАЛЕ́Ж-НАСЦЬ** (лац. confessionalis веравызнальны, царкоўны), прыналежнасць да групы людзей, якія вызнаюць пэўную форму рэлігійнага культу, адносяцца да пэўнай рэлігійнай арганізацыі. Адзін з фактараў развіцця *этнічных працэсаў*. У дакласавых і раннекласавых грамадствах этнічная і канфесіянальная прыналежнасць, як правіла, супадала, пры гэтым апошняя спрыяла культурнай гамагеннасці этнасаў. У далейшым гіст. развіцці ўзніклі буйныя канфесіянальныя супольнасці (сусветныя рэлігіі), якія аб'ядноўвалі некалькі этнасаў; адначасова адбывалася і міжканфесіянізацыя этнічных адзінак. Канфесіянальныя арганізацыі ў дакапіталістычных класавых грамадствах былі фактарам этнічнай кансалідацыі і сродкам асіміляцыі іншаэтнічнага насельніцтва. Канфесіянальная свядомасць у гэтых умовах мела перавагу над уласна этнічнай. У эпоху фарміравання бурж. нацый К. п. іншы раз выступала як вырашальны фактар этнагенетычнай *дывергенцыі* (напр., праваслаўе для сербаў, каталіцызм для харватаў, мусульманства для баснійцаў і г. д.). Пры дасягненні пэўнага ўзроўню кансалідацыі значэнне К. п. адступае на другі план. Канфесіянальныя арганізацыі прыстасоўваюцца дзеля нацыянальнага развіцця, уводзяцца багаслужэнні на нацыянальных мовах, зрэдку ўзнікаюць нацыянальныя формы рэлігійнага культу (англіканства, сінтаізм і інш.). Поруч з гэтым у поліканфесіянальных супольнасцях рэлігійныя адрозненні садзейнічаюць кансервацыі культурна-бытавой спецыфікі часткі насельніцтва, якое ўтварае этнаканфесіянальныя групы (праваслаўныя эстонцы-сету, рускія-стараверы і інш.). У сацыяліст. грамадстве па меры зніжэння агульнага ўзроўню рэлігійнасці і пашырэння атэістычнай свядомасці значэнне К. п. ў этнічных працэсах паступова змяншаецца.



Кансолі хат.

У этнічнай гісторыі насельніцтва Беларусі роля К. п. стала прыкметнай у 10 ст. ў сувязі з хрысціянізацыяй. Праваслаўная царква стала адным з найважнейшых фактараў кансалідацыі насельніцтва Кіеўскай Русі, механізмам пашырэння этноніма «рускія», які з часам ператварыўся ў *канфесіёнім*. З сярэдзіны 14 ст. на Беларусі пачаў пашырацца каталіцызм, які заняў пануючае становішча ў Вял. кн. Літоўскім. Гэта прывяло да поліканфесіянізацыі бел. этнасу, якая ўзмацнілася ў сувязі з пашырэннем пратэстантызму ў сярэдзіне 16 ст. і уніяцтва ў канцы 16 ст. Канфесіянальная стракатасць ускладнілася ў выніку з'яўлення шматлікіх груп мігрантаў — у 16 ст. мусульман (татар) і іудаістаў (яўрэяў), а ў 17— рускіх-стараабрадцаў. У 14—16 ст. складаная канфесіянальная сітуацыя выклікала ўзнікненне пэўнай талерантнасці ў рэлігійных (і міжэтнічных) адносінах, унікальнасць якой адзначаў Ф. Энгельс. У 2-й пал. 16 ст. каталіцызм стаў сродкам паланізацыі, якая ахапіла большую частку пануючага класа, шляхты, гараджан. У грамадскай свядомасці паняцці «католік» і «паляк» часам асэнсоўваліся як сінонімы, набылі сацыяльнае адценне. Барацьба нар. мас супраць каталіцкай экспансіі і прымусовага ўвядзення уніі ў канцы 16—1-й пал. 17 ст. насіла нацыянальна-вызваленчы характар і ў пэўнай ступені садзейнічала развіццю этнічнай кансалідацыі беларусаў. Аднак з часам праваслаўе страціла сваё значэнне ў якасці этнічнага сімвалу. Захаванню этнічнай спецыфікі ў большай ступені стала адпавядаць уніяцкая царква, якая апіралася на бел. мову і нават нярэдка асэнсоўвалася як «беларуская вера».

У 19 ст. канфесіянальная структура бел. этнасу спрасцілася. У 1839 скасавана унія, да гэтага часу спынілі існаванне амаль усе кальвінскія абшчыны. У сярэдзіне 19 ст. каля $^1/_5$ беларусаў складалі католікі, сканцэнтраваныя гал. чынам у паўн.-зах. і цэнтр. частках Беларусі, астатнія — праваслаўныя. Біканфесіянальнасць хаця і не прывяла да падзелу этнасу, аднак значна ўскладніла працэс яго кансалідацыі, своеасабліва адбілася на развіцці нацыянальнай культуры. Гэта выявілася ва ўжыванні двух шрыфтоў (лацінскага і кірылічнага) і адпаведна ім двух сістэм арфаграфіі. У 19— пач. 20 ст. праваслаўная (апіралася на падтрымку царскага ўрада) і каталіцкая цэрквы выкарыстоўваліся дзеля асіміляцыі бел. народа. Але ў выніку некаторых акалічнасцей (адносна высокі ўзровень сацыяльна-эканам. і культурнага развіцця Паўн.-Зах. і Цэнтр. Беларусі, перавага каталікоў сярод нацыянальнай буржуазіі і інтэлігенцыі) нацыянальная самасвядомасць сярод каталіцкага насельніцтва пашыралася хутчэй, а ў 1916 была створана нацыянальная каталіцкая партыя — Бел. хрысціянская дэмакратыя.

Пасля перамогі Кастр. рэвалюцыі ў БССР значэнне К. п. прыкметна знізілася, што паспрыяла кансалідацыі этнасу і спрасціла асіміляцыю прадстаўнікоў іншаэтнічнага насельніцтва (татар, яўрэяў, старавераў). У Зах. Беларусі асіміляцыйная накіраванасць каталіцкай царквы ўзмацнілася пры падтрымцы польскай буржуазнай улады. Гэта прывяло да ўкаранення сярод каталіцкага насельніцтва ўсведамлення сваёй прыналежнасці да польскага этнасу. Захоўваць гэту тэндэнцыю сярод веруючага насельніцтва каталіцызм імкнецца і ў наш час. Аналагічныя функцыі выконвае і іудаізм у адносінах да яўрэяў. У наш час канфесіянальная свядомасць уплывае на нязначную частку насельніцтва БССР. *П. У. Церашковіч.*

**КАНЮ́ШНЯ**, гаспадарчая пабудова для ўтрымання коней; тое, што і *стайня*.

**КАПА́**, 1) даўняя адзінка лічэння розных прадметаў (збожжа ў снапах, гуркоў, цвікоў і інш.), роўная 60 штукам. 2) Грашовая адзінка ў сістэме мер Вял. кн. Літоўскага, роўная 60 грашам літоўскім. 3) Невялікі стажок сена, саломы. У сучаснай бел. мове слова К. мае значэнне: укладка з 20—80 снапоў (збожжавых, лёну); адзінка лічэння, а таксама ў 3-м значэнні.

**КАПА́Ч**, невялікая жалезная лапата паўкруглай ці круглай формы для копкі бульбы. Называлася таксама капачка.

**КАПЕ́Ц**, 1) валападобная куча бульбы ці караняплодаў, укладзеных на паверхні зямлі або ў неглыбокі катлаван і ўкрытых саломай і зверху зямлёй. Бульбу ці караняплоды пасля ўборкі падсушваюць, ссыпаюць на загадзя падрыхтаванае месца і накрываюць. З наступленнем халадоў слой зямлі павялічваюць. Каб бульба ці караняплоды не сапрэлі, у цэнтры К. ставяць калы, абкручаныя саломай, што забяспечвае неабходную цыркуляцыю паветра. Вакол К. на глыбіню 30—40 см капаюць канаўку для адводу талых веснавых вод. К. здаўна вядомы па ўсёй Беларусі. Найбольш пашыраны ў мясцовасцях з высокім узроўнем грунтавых вод. У К. захоўваюць бульбу і караняплоды ў калгасах і саўгасах пры адсутнасці сховішчаў. 2) Насып вакол межавога слупа пры каморніцкіх абмерах. *У. С. Гуркоў.*

**КАПЛУ́Н**, рэдкая страва, прыгатаваная з кавалачкаў хлеба і вады. Называлася таксама каплук. У гатаваную ваду (часам вар) крышылі цыбулю, хлеб, дадавалі соль, запраўлялі алеем або салам. На Пружаншчыне К. рабілі на вадзе, у якой варылася бульба. Елі К. з бульбай. Страва вядома на Брэстчыне (у Камянецкім, Жабінкаўскім, Пружанскім, Бярозаўскім, Іванаўскім р-нах). Падобна да *рулёў, цуры.*

**КАПТУ́Р**, традыцыйны галаўны ўбор замужніх жанчын; паўшарападобная ці плоская прысбораная на патыліцы шапачка з вушкамі, да якіх прышывалі стужкі для завязвання пад барадой. Бытаваў пераважна ў Цэнтр. і Зах. Беларусі да пач. 20 ст. (у 16—17 ст. яго насілі знатныя гараджанкі і шляхцянкі). Шылі К. з аксаміту, шоўку, атласу, паркалю звычайна чырвонай гамы; вушкі і перад аздаблялі вышыўкай, залатой і сярэбранай тасьмой, нашыўкамі разнаколерных стужак, бісерам. Надзявалі на тканку (круглы валік, на які накручвалі валасы), зверху часта завівалі намітку, завязвалі хустку. *М. Ф. Раманюк.*

**КАПУ́СТА**, традыцыйная страва. Называлі таксама капуснік, капусняк. Вараць з дробна пакрышанай капусты, дадаюць бульбу, прыправы, часам кладуць сушаныя грыбы. Гатуюць з мясам або затаўкаюць здорам ці засквараюць; часта перад ядою прыпраўляюць смятанаю. Даўней, асабліва на Палессі, у К. дадавалі муку (рабілі закалоту), каб менш спажываць хлеба.

**КАПУ́СТА КВА́ШАНАЯ**, старадаўні прадукт харчавання славян, у т. л. беларусаў. Прасцейшы спосаб прыгатавання — квашанне цэлымі качанамі або палавінкамі (палюткамі, плашкамі, палойкамі) без солі, з вадою. Качаны абчышчалі ад верхняга шэрага лісту, складвалі ў бочкі, залівалі вадой (звычайна халоднай). Калі капуста ўкісала, яе прыціскалі грузам (гнётам). К. к. стаяла ў варыўні. Капуста ў квасе магла летаваць. Варылі з К. к. *боршч, квас, капусту.* Калі было дастаткова солі, рабілі расол (з кменам і кропам) і залівалі ім капусту ў бочцы (расаловая капуста). Сечаную капусту таксама маглі заквашваць з вадой, без солі. Капусту seклі ў ночвах, дадавалі кмен, кроп, журавіны, моркву, часам мяту, потым складалі ў бочку. Пазней капусту сталі заквашваць без вады, пераціраючы яе з соллю і прыправамі (шаткаваная капуста, бітая капуста, набіванка). У сечаную капусту часта кладуць цэлыя качаны або палавінкі (складаюць слаямі). На У Беларусі, як і ў суседняй Смаленскай вобл., лепшыя верхнія шэрыя лісты капусты ішлі не на корм скаціне, а квасіліся. Гэтыя лісты абмывалі, іншы раз секлі, складалі ў бочкі, залівалі вадой без солі. Такую К. к. называлі шэрай, рудой, націнай, шэрым баршчом. На Палессі капусту квасілі таксама парануо або папярэдне падпечаную, залівалі яе расолам з прыправамі. У наш час вядома паўсюдна. *Г. Ф. Вештарт.*

**КАПШУ́К**, народны самагучальны музычны інструмент. Уяўляе сабой добра вычышчаны, высушаны і надзьмуты свіны пузыр са жменяй сухога гароху або бобу ўнутры. Пры патрэсванні К. ўзнікае глухаваты шалясцячы гук. Вядомы як дзіцячая цацка, але часам, напр., у Карэліцкім р-не, выкарыстоўваецца і ў ансамблях, дзе разам з бубнам выконвае ўдарна-шумавую і каларыстычную функцыі. У 1986 У. М. Гром, мастацкі кіраўнік нар. фальклорнага ансамбля «Крупіцкія музыкі», зафіксаваў К. у Жыткавіцкім р-не; інструмент выяўлены таксама ў Асіповіцкім і Круглянскім р-нах. *І. Дз. Назіна.*

**КАПЫ́Л**, 1) найбольш старажытная прылада для апрацоўкі глебы. Складаў-



Жанчына ў **каптуры.** Камянецкі раён. Пачатак 20 ст.



Розныя віды **каптуроў.** Пачатак 20 ст.



Капыл для апрацоўкі глебы.



Капшук.

ся з доўгага драўлянага трымальніка (дзержака), на адзін канец якога насаджвалася пад прамым вуглом жалезнае лязо. Выкарыстоўвалася гал. чынам пры работах на лядах. У асобных месцах К. ўжываліся да канца 19 ст. 2) Адзін з драўляных брускоў, якія ўстаўляюцца ў палазы і служаць апорай для кузава саней. 3) Кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак.

**КАПЫ́ЛЬСКАЕ ТКА́ЦТВА**, традыцыйнае народнае ткацтва ў вёсках Капыльшчыны. Вядома з 16 ст. У 17 ст. працавалі ткацкія майстэрні. З 1850-х г. да пач. 1 сусв. вайны ў в. Агароднікі дзейнічала пабудаваная кн. Радзівілам вял. майстэрня па вырабу абрусоў (у 19 ст. кіраваў прыгонны ткач Міхалевіч), дзе ткалі на шырокіх кроснах. Узорамі гэтай майстэрні карысталіся майстры больш позніх часоў (М. Парыбак з Цімкавіч, С. Шаравар з Крывасёлкаў і інш.). Вядомы тэхнікі закладнога, пераборнага і шматнітовага К. т., у іх вырабляюць абрусы, ручнікі, дываны, посцілкі і інш. У пашыраным да 20 ст. закладным ткацтве (мясцовыя назвы «старасвецкае ткацтва», «старасвецкае натыканне») меліся шчыліны; выкарыстоўвалі габеленавую тэхніку, характэрны спалучэнні чырвонага і чорнага колераў. У 20 ст. развівалася шматнітовае і пераборнае ткацтва. У шматнітовай тэхніцы (да 12 нітоў) налічваецца больш за 200 узораў — «простых» і «павучковых», найбольш уласцівы спалучэнні белага і шэрага колераў. Асаблівую разнавіднасць шматнітовай тэхнікі складаюць тканіны з фактурай «у бубікі» («касматыя»), дзе ў пэўных месцах выцягваюць уточную неразразную нітку. Пераборнае ткацтва мае 2 разнавіднасці. Традыцыйныя арнаменты: геаметрычны (мясцовыя назвы «кашэчая лапка», «шпора», «кругі», «катушкі», «вакенцы», «зоркі», «касіца», «вада», «маланкі», «шахінь», «калатушкі» і інш.), зааморфны («пеўні», «каты», «сабачкі», «вавёрка», «ільвы», «птушкі», «рыба», «чалавек» і інш.), раслінны («дуб», «вяночак», «васількі», «ландыш» і інш.); характэрны спалучэнні белага з блакітным або рознымі адценнямі сіняга колеру. Гэтыя спалучэнні ў ручніках абумоўлены вясельным фальклорам. У 1950—80-я г. ткацтвам займаюцца ў в. Макраны (Г. Паляшчук), Семежава (А. Серада), Лешня (Н. Чаркас), Кіявічы (Л. Пілат і В. Кіеня), Гулевічы (А. Мяшэчак), Цімкавічы, Агароднікі, Душава, Ванелевічы, Крывасёлкі і інш. Многія ткачыхі працуюць надомніцамі Слуцкай фабрыкі маст. вырабаў. *М. П. Жабінская.*

**КАПЫ́ЛЬСКА-КЛЕ́ЦКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Цэнтральнай Беларусі. Бытаваў у 19— пач. 20 ст. пераважна ў Капыльскім, Клецкім, Уздзенскім, Нясвіжскім р-нах. Вызначаўся багаццем кампазіц. вырашэнняў, класічнасцю арнаменту вышывак і натыкання. Аснову летняга жаночага гарнітура складалі кашуля, спадніца (андарак), фартух, гарсэт. Кашулю шылі з кужэльнага палатна, кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі з падточкай грубага палатна (радзей з гесткай), з адкладным шырокім каўняром, з глыбокім разрэзам пазухі. Чырвоны або чырвона-чорны геаметрычны (радзей раслінны і з выявамі птушак, фігур людзей) арнамент размяшчаўся на рукавах (гарызантальнымі і вертыкальнымі палосамі ў шахматным парадку) і на каўняры. Андарак шылі з 4 (кросных па аснове) або 2 (кросных па ўтку) полак паўсуконніка, вытканага ў 4 ніты ўзорам папярочных разнаколерных насканаў або клетак на белым, чорным, зялёным, блакітным, бурачковым фоне. Па ніжнім краі праходзіў шырокі маляўнічы шляк з пярэстымі паскамі або з геам. арнаментам. Крой і маст. афармленне льняной спадніцы і андарака падобныя. Андарак і спадніцу прасавалі ў буйныя і частыя складкі, што ствarala пэўныя танальныя пераліvy і падкрэслівала прыгажосць каларыстычнай гамы. Фартух кроілі з 1—2 полак белага палатна, цёмна-сіняй, малінавай шарсцянкі ці паркалю, да пояса ззаду часта прышывалі дэкар. клінкі-лапаткі. Аздаблялі вышыўкай, узорыстым ткацтвам, вязаннем, фалдаваннем, складкамі. Гарсэт шылі з сініх, зялёных, блакітных, малінавых крамных тканін (шарсцянка, сацін, шоўк), кароткім (вышэй лініі таліі, часцей без баскі) з глыбокім выразам на грудзях. Спераду аздаблялі нашыўкамі разнаколерных тасёмак, стужак, гузікаў. Галаўныя ўборы жанчын — шоўкавыя ці атласныя каптуры са стракатымі нашыўкамі спераду тасьмы, галуна, разнаколерных стужак; наміткі, хусткі. Нагруднымі і шыйнымі ўпрыгожаннямі былі пацеркі, тасёмкі, абразкі. Мужчынскі гарнітур складалі кашуля, аздобленая вышыўкай чырвонага геам. арнаменту на адкладным каўняры, плечавых устаўках, падоле (насілі навыпуск, падпяразвалі шырокім узорыстым поясам з кутасом) і нагавіцы. Паверх кашулі апраналі камізэльку. Галаўныя ўборы — саламяныя капелюшы, картузы, кучомкі, аблавухі. *М. Ф. Раманюк.*



Капыльска-клецкі строй. Жанчына ў святочным адзенні. Вёска Морач Клецкага раёна.



Святочны ўбор дзяўчыны. Вёска Колкі Клецкага раёна.



Капыльска-клецкі ручнік з вёскі Семежава Капыльскага раёна. 1930-я г.

**КАПЫ́ЛЬСКА-КЛЕ́ЦКІЯ РУЧНІКІ**, тып традыцыйных тканых ручнікоў, якія вырабляюцца ткачыхамі пераважна ў Капыльскім і Клецкім, а таксама Слуцкім, Салігорскім, Уздзенскім, Нясвіжскім р-нах. Вядомы з сярэдзіны 19 ст. Ткуць з ільняных і баваўняных нітак, даўжыня ручніка 250—400 см, шырыня 46—60 см. Асаблівасць ручнікоў — буйнарапортнасць узораў. Кампазіцыя бывае 2 відаў. У адных гладкае белае поле і чырвона-малінавы ўзор па канцах. Геаметрычны арнамент (шурпы, шурпы і сталы, шурпы і маланты, арлы) буйнарапортны, шчыльны, выкананы ў закладной (у матрушкі) тэхніцы або вышыты крыжыкам (найчасцей імітуецца натыканы ўзор).

У другіх рытмізаваная кампазіцыя (паўтарэнне па ўсім палотнішчы аднаго і таго ж арнаментальнага рапорта без або з нязначным акцэнтам простых палос-прокідак утку ці нашывак мануфактурнай тканіны па канцах). Аздабленне геаметрычным (кругі, акенцы, ключыкі, зоркі, столікі), раслінным (ружы, васількі, сланечнік, вазоны, букеты), заамарфным (галубы, пеўнікі, пташкі, каты) арнаментамі выконваецца ў тэхніцы перабору (у 2 ніты і 15—25 матузоў) або шматнітовага ткацтва. Асноўная гама гэтага віду двухколерная — белы з серабрыста-шэрым. Шырока выкарыстоўваюцца і спалучэнні белага з сінім, блакітным, фіялетавым, зялёным і інш. колерамі, што амаль не сустракаецца ў іншых раёнах Беларусі. Канцы ручнікоў завяршаюцца вязанымі карункамі, махрамі, палоскамі фабрычнай тканіны. *М. Ф. Раманюк.*

**КАПЯЛЮШ**, мужчынскі галаўны ўбор; тое, што і *брыль.*

**КАРАВАЙ**, 1) вясельнае абрадавае печыва. Сімвалізуе багацце, дабрабыт будучай сям'і, атаясамліваецца з маладымі, іх доляй і шчасцем. Даўней К. выконваў і функцыю матэрыялізаванага бога-продка. На большай частцы Беларусі вясельным К. называюць усё абрадавае печыва, уключаючы і самы вялікі бохан, або галоўны, старшы, асноўны К. Хлеб і яго заменнікі (зерне, каша, дзяжа, салома) — абавязковыя кампаненты амаль усіх рытуалаў традыцыйнага бел. *вяселля.* У народзе лічаць, што кожны чалавек можа мець К. толькі адзін раз на вяселлі, таму, калі замуж выходзіла ўдава або жаніўся ўдавец, К. не пяклі. К. пяклі спецыяльна запрошаныя бацькамі маладых, радзей самімі маладымі жанчыны — *каравайніцы.* У старажытныя часы ў прыгатаванні К. ўдзельнічалі ўсе члены родавай абшчыны, пазней — усе члены сельскай абшчыны.

Абрад К. характэрны для ўсёй Беларусі, але найб. разгорнута ён выконваўся на Пд, дзе кожны этап прыгатавання К. суправаджаўся мноствам адпаведных рытуальных дзеянняў, цырымоній, песень, заклінанняў, звlibротаў да звышнатуральных сіл і з'яў прыроды і пачынаўся з трохразовых формул-зваротаў, у якіх каравайніцы прасілі дазволу ў бацькоў, святога покуця, суседзяў, прыяцеляў, роду благаславіць змалоць і прасеяць муку, расчыніць, замясіць цеста, пасадзіць К. у печ і г. д. Прысутныя тройчы адказвалі: «Бог благаславіць». Адпаведнымі формуламі-падзякамі заканчвалася кожнае дзеянне. К. пяклі ў хаце маладога і маладой часцей за ўсё ў суботу напярэдадні вяселля або ў нядзелю, калі маладыя паехалі да шлюбу. Спяваць у час пячэння К. і яго ўпрыгожвання запрашалі маладых дзяўчат, рыхтаваць дровы, печ і неабходныя прылады для прыгатавання абрадавага хлеба — жанатых мужчын, саджаць К. у печ — нежанатага хлопца, пажадана кучаравага. Запрашалі і суседзяў, бо лічылася, што чым больш людзей, гоману і вясёласці, тым лепш удасца К., а значыць, і будучае жыццё маладых. Дровы бралі з трох двароў і з трох розных парод дрэў, якія лічацца ў гэтай мясцовасці «шчаслівымі», ваду — з трох крыніц, масла — ад кароў першага ацёлу, мёд — ярых пчол, муку — з сырога зерня або сушанага не ў печы. Памяло, лапата, дзяжа, вілкі і інш. прылады павінны былі быць новымі. Дзяжу ставілі пасярод хаты на вывернутым кажусе, сыпалі ў яе муку і лілі ваду за адзін прыём. Рошчыну размешвала правай рукой у адзін бок па ходу сонца старшая каравайніца — звычайна хросная маці — або па чарзе ўсе каравайніцы. К. мясілі далонямі, а не кулакамі, каб маладых ніколі не падымаў рукі на маладую; рабілі яго густым, салодкім,



Каравай.

прыгожым, часам без солі, дабаўляючы невялікую колькасць гарэлкі, што азначала багацце і вясёласць будучай пары. Каб надзяліць увесь род К., яго рабілі вялікім. Цеста для галоўнага К. брала з дзяжы старшая каравайніца за адзін прыём і клала на лапату. К. меў форму круглай булкі, якую ў маладой апаясвалі абручом, сплеценым з цеста ў выглядзе касы, што сімвалізавала яе дзявоцкасць, а ў маладога на К. клалі просты абручык. Часам К. у маладога рабілі ў выглядзе паўмесяца. Галоўны К.— абавязковы элемент асноўных момантаў вясельнай абраднасці. Яго ўносілі ў хату, калі зводзілі маладых і іх роды, ставілі ў клеці ў першую шлюбную ноч, на яго клалі *завіванне* нявесты, яе пояс і падвянечную кашулю маладога, падараваныя ім рэчы, грошы і г. д.

З рэшткі цеста каравайніцы выраблялі другасныя К. Іх называлі каравайчыкі, падручнікі, шышкі, гускі, баранкі, ясачкі, драмушкі, ялавіцы, пастушкі, пеўнікі, музыкі і інш. і выкарыстоўвалі з пэўнымі мэтамі ў розныя моманты вяселля. Ахоўную ролю выконвалі падручнік, шышка, месяц, якія на працягу ўсяго вяселля маладыя трымалі ў руках, за пазухай; падзяку духам продкаў, дамавіку і сямейным духам азначалі пакладзеныя на кут, парог, прыпечак, паліцу каравайчыкі і г. д. Дзяўчаты, або гусарніцы, рабілі з цеста К. розныя аздабленні (гускі, шышкі, бочачкі з абручыкамі і г. д.) для асноўнага К. і дробнае печыва для пачастунку дзецям. Памазаўшы галоўны К. мёдам і пасыпаўшы сырам, саджалі яго ў печ. Лапатай, якой пасадзілі К., тройчы стукалі ў паднябенне печы або ў столь хаты, калі ў гаспадара былі незамужнія дочкі, дакраналіся да іх галоў, а затым выносілі лапату на двор і кідалі яе цераз хату, каб яна зламалася. Рэшткамі цеста на руках каравайніца мазалі твар прысутным мужчынам, потым мылі рукі, а ваду вылівалі пад вішні, яблыні, на ток, у хлеў, «каб усё радзіла і пладзіла». Старшая каравайніца са сватам насілі на хаце дзяжу, тройчы кружыліся з ёю, цалаваліся; дзяўчаты



Каравай.

імкнуліся як мага хутчэй выкаціць дзяжу на вуліцу, каб выйсці замуж, а хлопцы перашкаджалі ім. Дастаўшы К. з печы і тройчы з ім пакружыўшыся, клалі яго на века дзяжы, пакрытае белым абрусам і пасыпанае аўсом, жытам і хмелем.

Калі К. астыне, пачыналася яго аздабленне. Пераважалі два віды ўпрыгожвання: фігуркамі, спечанымі з цеста, і галінкамі. На К. маладой пасярэдзіне ставілі спечаную з цеста вял. шышку або гуску, а вакол — маленькія шышачкі, гусачкі, зорачкі, кветачкі, баранчкі, васьмёркі, фігуркі спявітага дзіцяці і інш., а пасярэдзіне К. маладога — часцей за ўсё паўмесяц, часам — шышку або гусачка, вакол — бочачкі з абручыкамі, пеўня, курыцу і інш. Зверху К. упрыгожвалі зелянінай (лісцікамі, пучочкамі руты, міртвы, мяты, каліны), ягадамі брусніц, вішні, каліны, рабіны, кветкамі з каляровай паперы. Аздабленне галінкамі адпавядала больш раз-

горнутаму абраду К. У ім фігуркі з цеста — не асноўнае аздабленне, іх і не відаць з-за галінак елкі, сасны, грушы, яблыні і ўпрыгожаных зверху фарбаванымі пучкамі аўса, рабіны, каліны, зялёнай амялы з белымі ягадкамі. На Палессі гэтыя ўпрыгожаныя рагацінкі наз. шышкамі. Каб шышкі з рагацінак не нахіляліся ў бакі, іх абвязвалі чырвоным ваўняным поясам з нанізанымі на яго абаранкамі, а зверху накрывалі каляровай або белай хусткай, сам К. абвязвалі вышытым ручніком. Зверху да шышак часта прывязвалі адну або тры свечкі, якія запальвалі ў кульмінацыйныя моманты вяселля. Прадметам аздаблення надавалася сімвалічнае і магічнае значэнне.

Аздоблены К. бацька маладой (маладога) пачастункам выкупляў у каравайніц і ставіў яго ў клеці на жыта. Едучы па маладую, малады забіраў свой К. з клеці і вёз яго з сабой. На яго К. гарэлі свечкі і вісеў вяночак для маладой. Па прыездзе вясельнага поезда сват маладога ўваходзіў у сенцы, высока падняўшы над галавой К. маладога, і прасіў вынесці К. маладой. Такім жа чынам яго сустракаў сват маладой,



Карагод «Заінька». Выконваюць жыхары вёскі Маторына Расонскага раёна.

імкнучыся падняць свой К. вышэй, што азначала перавагу аднаго з членаў будучай сям'і і адпаведна аднаго з родаў. Караваі маладых ставілі побач на века дзяжы, і сваты, падняўшы яго, утваралі своеасаблівую браму, пад якой цалаваліся блізкія сваякі маладых, а дружына маладога праз яе праходзіла ў хату. Гэты рытуал азначаў злучэнне маладых і парадненне іх родаў. У адных выпадках маладыя абменьваліся караваямі, у другіх — толькі шышкамі з К., а ў некаторых — зусім не абменьваліся. Падзел К. адбываўся згодна з выпрацаваным стагоддзямі рытуалам. Дзелячы К., старшы сват (стараста) сярэдзіну адзяваў маладым, «падэшву» (ніз каравая) — музыкам, астатнюю частку дзяліў паміж роднымі ў залежнасці ад ступені сваяцтва: першымі К. атрымлівалі бацькі, затым хросныя бацькі, цёткі, дзядзькі і г. д. Рэшткі К., акрамя аднаго кавалачка, які з векам выносілі ў клець, раздавалі староннім; яны імкнуліся атрымаць хоць невялікі кавалачак, каб пакласці яго ў насеннае збожжа, што павінна было стымуляваць багаты ўраджай, даць скаціне і хоць крышку з'есці самім. Ужыванне К. звязвалася з павер'ем, што гэты акт садзейнічае ўрадлівасці палёў, пладавітасці скаціны, забяспечвае дастатак і шчасце. За атрыманую частку К. кожны з прысутных чым-небудзь адорваў маладых. Звычайна падзелам К. вяселле заканчвалася (у некаторых мясцовасцях яго дзялілі перад вясельным застоллем). Асноўныя элементы абраду К.



Гульнёвы карагод «Мак». Выконвае фальклорны калектыў з вёскі Смаляніца Пружанскага раёна.

захаваліся па ўсёй Беларусі да нашага часу.

2) Хлебны выраб, вялікі круглы бохан, спечаны да якой-небудзь урачыстасці. *Л. А. Малаш.*

**КАРАВА́ЙНІЦЫ**, удзельнікі абраду прыгатавання *каравая* ў хаце маладой і ў хаце маладога. К. выбіраліся паважаныя замужнія жанчыны, якія былі ў першым шлюбе і жылі ў сямейнай згодзе (не бяздзетныя). Звычайна колькасць няцотная, а ў некаторых мясцовасцях — толькі цотная. Старшая К. (пачынальніца) першая пачынала кожны этап (сыпала муку, рашчыняла і мясіла цеста), кіравала ўсім працэсам прыгатавання каравая і звярталася да ўсіх прысутных са спецыяльнымі формуламі-просьбамі благаславіць каравай рашчыніць, замясіць, пасадзіць ў печ, дастаць з печы, упрыгожыць, вынесці ў камору і г. д. Старшай К. найчасцей была хросная маці або родная цётка. Атрыбутам старшай К. часам была прымацаваная да яе хусткі пасмачка кужалю або некалькі ваўняных нітак чырвонага колеру. У прыгатаванні каравая ўдзельнічалі адзін-два жанатыя мужчыны-каравайнікі, якія рыхтавалі дровы, печ і неабходныя прылады, і нежанаты хлопец (часцей за ўсё брат маладой ці маладога, часам яго называлі кучаравым), які садзіў каравай у печ. Упрыгожанні (гускі, шышкі, бочачкі і інш.) для каравая рабілі і пяклі маладыя дзяўчаты — гусарніцы. К., каравайнікі, гусарніцы, кучаравы насілі гэтыя назвы толькі ў перыяд прыгатавання каравая. *Л. А. Малаш.*

**КАРАВА́НШЧЫКІ**, рабочыя, якія суправаджаюць караван *плытоў*.

**КАРАГОД**, старажытны від мастацкай творчасці славян і некаторых суседніх народаў, у якім арганічна сінтэзаваліся танец, песня, гульнёвае драматызаванае дзеянне, часам і музычнае суправаджэнне. Лакальная назва танок. На Беларусі пашыраны амаль паўсюдна, асабліва на Магілёўшчыне і Палессі (мясцовая назва — кола). Тэматыка К. разнастайная і ўключае песні працоўнага, абрадавага, любоўнага, сямейна-бытавога, святочна-гульнёвага характару. У паэтычных тэкстах зберагліся сляды гіст. падзей мінулага. Выкананне К. звычайна звязвалася з каляндарнымі і сямейна-бытавымі святамі і абрадамі.

Да веснавога і зімовага цыклаў бел. земляробчага календара прымяркоўваліся спецыяльныя К. (юраўскія, траецкія, русальныя, купальскія і інш.), якія мелі адпаведную тэматыку і структуру. Паводле музычна-харэаграфічнай структуры К. падзяляюцца на 3 вял. групы: карагодныя песні, гульнёвыя К. і карагодныя танцы.

У *карагодных песнях* гал. ўвага аддаецца выкананню песні, мелодыі. Павольны тэмп, шырокая распеўнасць, адсутнасць дакладных рытмічных акцэнтаў, наяўнасць складаных метраў (чаргаванняў доўгіх і кароткіх складоў) збліжаюць карагодныя песні з нар. вакальнай лірыкай, веснавымі і купальскімі песнямі. Пра блізкасць іх да лірычнай песні сведчыць і характар сюжэта: апавяданне ці маналог з супастаўленнем некалькіх фабульных звёнаў, з псіхалагічнымі і паэтычнымі паралелізмамі, рытарычнымі пытаннямі, воклічамі і г. д. Рухі выканаўцаў, як правіла, простыя (звычайны крок, крок з рухам у бок, «пераменны крок» і інш.), малюнкі нескладаныя — кола, кола ў коле (з рухам у розныя бакі), прамы ланцужок, здвоеная васьмёрка («крывы танок»), змейка, ручаёк, калона, адвольны гурт. Тыповыя карагодныя песні — «Пава», «Страла», «Сонейка», «Гусачок», «Да й не расці, укропэ» і інш. Для *гульнёвых К.* характэрна наяўнасць пэўнага дзеяння, якое разыгрываюць удзельнікі, больш хуткі тэмп і дакладны рытм; часта сустракаецца 2-часткавая муз. структура (1-я частка павольная, 2-я — хуткая), дыялагічная перадача сюжэта. У харэаграфіі нярэдка імітуюцца рухі розных жывёл і птушак, з гумарам паказваюцца асобныя рысы чалавека. Найбольш пашыраныя малюнкі — кола ці паўкола з салістамі ў цэнтры, дзве шарэнгі, што процістаяць адна адной. У гульнёвых К. харэаграфія ўскладняецца, уключаючы ў сябе шырокі набор ілюстрацыйна-выяўленчых рухаў, элементы імправізацыйных скокаў — прыжкі, воплескі, прытупы, прысядкі, вярчэнні. У іх больш цесная сувязь паэтычнай, гульнёвай і харэаграфічнай структур, больш дакладна выступае сіметрычнасць, «квадратнасць» рытмапластычных формул. Большую ролю адыгрываюць элементы драматычнага мастацтва, пантамімы, мімікі. Найб. тыповыя К. гэтай групы — «Са вянком я хаджу», «А мы проса сеялі», «Падушачка», «Горад», «Верабей», «Юрачка», «Лянок», «Канапелькі», «Мак», «Заінька». У якасці падгрупы гульнёвых К. вылучаюць карагодныя гульні, што сваёй структурай найб. блізкія да гульняў («Прададзенае дзіця», «Сваха», «Чортава рабро», «Хрэн», «Мост», «Панначка», «Плётачка» і інш.). У *карагодных танцах* гал. месца займае харэаграфія. Яна падпарадкоўвае сабе інш. кампаненты структуры і выяўляе асн. ідэйна-маст. змест. Для павольных карагодных танцаў характэрны надзвычай багатыя прасторавыя малюнкі (розныя камбінацыі рухомых фігур — «спіраль», «зорачка», «вароты», «кніжка», «матылёк», «веер» і г. д.) і разнастайныя дэкаратыўныя запляценні рук; для хуткіх — развітая харэаграфічная лексіка (ад віртуозных «каленцаў» салістаў да імклівых рухаў усіх удзельнікаў). Тыповыя карагодныя танцы — «Завіванне вянкоў», «Гусарыкі», «Чарот», «Пеўнік», «Лета» і інш.



Карагод «Перапёлачка». Вёска Тонеж Лельчыцкага раёна.

Вясной і ўлетку К. усіх відаў звычайна выконваліся на вуліцы пры вял. зборы народу. Зімой у хаце выконваліся найчасцей гульнёвыя К. і карагодныя гульні. Многія з іх былі неад'емнай часткай калядных вечароў («Зязюля», «Яшчур», «Халімон», «Жаніцьба Цярэшкі» і інш.). У сямейна-бытавой абраднасці К. сустракаецца ў асноўным на вяселлях, дзе яны прымяркоўваліся да пэўных рытуалаў (пячэнне караваю, абход з ім хаты, танец маладых, выхад з-за стала і інш.). Як вясельныя ў розных абласцях Беларусі выконваліся К. «Зазулейка», «Качан», «Рушнікі», «Каза», «Падушачка» і інш. У наш час К. бытуюць у асноўным у маст. апрацоўцы на сцэне, у этнаграфічных самадзейных і прафесійных калектывах.

*Ю. М. Чурко.*

**«КАРАЗЕ́ЛЬ»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Выконваецца ў 4 пары. Выканаўцы становяцца ў круг, дзяўчаты ставяць ногі ў яго цэнтр, а рукамі моцна трымаюцца за рукі партнёраў. Калі хлопцы рухаюцца па крузе прыстаўным крокам, ствараецца ўражанне каруселі, якая круціцца. Танец зафіксаваны ў Брэсцкай вобласці.

*А. Л. Варламаў.*

**КАРА́ЛІ**, дробныя ўпрыгожанні са скразнымі адтулінамі, нанізаныя на нітку або шнурок, якія надзяваюцца на шыю; тое, што і *пацеркі*.

**«КАРАПЕ́Т»**, гарадскі бытавы танец. У некаторых мясцовасцях называўся «Дзевачка Надзя», «Лысы», «Муха». Музычны памер $^2/_4$, $^4/_4$. Тэмп умерана-хуткі. Паходзіць ад паўд.-амерыканскага танца «Тустэп». Складаецца з абмежаванай колькасці стандартных рухаў, якія паўтараюцца некалькі разоў запар. На першае правядзенне мелодыі танцоры робяць 4 фокстротныя крокі спачатку ў адзін, потым у другі бок. На наступнае правядзенне мелодыі — кружацца ў пары рухам полька-вальс, а потым дзяўчына некалькі разоў паварочваецца пад узнятай правай рукой партнёра. Танец мае рэгіянальныя адрозненні, у якіх змяняецца часцей за ўсё толькі парадак выканання рухаў. Суправаджаецца шматлікімі мясцовымі каларытнымі прыпеўкамі:

А чаго ты, лысы, без валос астаўся?
А таму, што з дзеўкамі многа цалаваўся...
А дзевачка Надзя, чаго табе нада?
Нічога не нада, кроме шакалада.

Сустракаецца па ўсёй Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*

**КАРАЧУ́Н**, фантастычная істота ў старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. славянскіх народаў. У стараж. славян К. увасабляў зіму і смерць. К. называлі інш. раз зімовы сонцазварот і звязанае з ім свята. Пазней К. стаў увасабленнем толькі смерці. На Беларусі К. лічылі злым духам, які скарачаў жыццё, выклікаў сутаргу, раптоўную смерць у маладым узросце (адгэтуль праклёны: «Каб цябе карачун забраў» ці «Каб цябе карачун скруціў»). Павер'і пра К. захоўваліся да канца 19 — пач. 20 ст.

*М. Ф. Піліпенка.*

**КАРЛО́ВІЧ** (Karłowicz) Ян (Іван Аляксандравіч; 28.5.1836, в. Субартоніс Варэнскага р-на Літ. ССР — 14.6.1903),

польскі этнограф, фалькларыст, мовазнавец, музыказнавец. Акадэмік Акадэміі ведаў у Кракаве (1887). Скончыў Маскоўскі ун-т (1857). Вучыўся ў Брусельскай кансерваторыі. Працаваў выкладчыкам музыкі і рус. мовы ў Варшаўскай кансерваторыі. У 1871—82 жыў у маёнтках Падзітва (Воранаўскі р-н) і Вішнеў (Смаргонскі р-н), з 1882 — у Гейдэльбергу, Дрэздэне, Празе, з 1887 — у Варшаве. Заснавальнік (1887) і рэдактар (1888—99) краязнаўча-этнаграфічнага час. *«Вісла»*, у якім шмат места адводзіў бел. тэматыцы. Вывучаў духоўную і матэрыяльную культуру польск., бел. і літоўскага народаў. Збіраў вусную нар. паэзію, апублікаваў працы «Найноўшыя даследаванні паданняў і іх зборы» (1883), «Сістэматыка песень польскага народа» (1889—95), «Міфалогія і філасофія» (1899). Уласныя запісы бел. легенд і паданняў з Свянцянскага, Лідскага і Навагрудскага пав. (больш за 80 тэкстаў) у перакладзе на польск. мову надрукаваў у кн. «Народныя паданні і казкі, сабраныя ў Літве» (1887—88). Зрабіў апрацоўкі нар. прозы: «Прыгожая Мелюзіна і каралеўна Ванда» (1876), «Паданне пра Вальтэра з Тынца» (1881) і інш. Распрацаваў методыку збірання фальклору і выдаў «Дапаможнік для збіральнікаў народных твораў» (1871). Запісаў для М. Федароўскага больш за 500 мелодый бел. нар. песень (больш за 300 апублікаваны ў шматтомным зборы Федароўскага «Люд беларускі», т. 5, 1958; т. 6, 1960). Том бел. казак, легенд, паданняў, прыказак і том бел. традыцыйных песень (да многіх з іх дадаюцца ноты), сабраныя і запісаныя К., зберагаюцца ў Цэнтр. гіст. архіве Літ. ССР. Найважнейшыя лінгвістычныя працы: — «Слоўнік польскай мовы» (т. 1—8, 1900—27, укладальнік і гал. рэдактар, разам з А. Крынскім і У. Нядзведскім), «Слоўнік польскіх гаворак» (т. 1—6, 1900—11, закончыў Я. Лось), «Слоўнік выразаў замежнага і малавядомага паходжання...» (А—К, 1894—97). Аўтар гіст., філасофскіх і музыказнаўчых работ. У прадмове да зборніка У. Вярыгі «Беларускія паданні» (1889) і інш. працах цёпла пісаў пра бел. народ, яго мову і вусную нар. творчасць. Смела выказваў свае паліт. погляды, называў рэлігію «шкодным наркотыкам», крытыкаваў касцёл як грамадскі інстытут. Быў цесна звязаны і перапісваўся з Э. Ажэшка, А. Гурыновічам, М. Доўнар-Запольскім, А. Ельскім, М. Янчуком і інш. *І. К. Цішчанка.*

**КАРНІ́З**, канструкцыйна-дэкаратыўны элемент афармлення месца стыкоўкі страхі са сцяной. Робяць К. з дошак, якімі абабіваюць знізу і з бакоў канцы бэлек, што выходзяць за межы сцен, пад навісямі страхі. Ахоўвае сцены і бэлькі ад атмасферных ападкаў. Звычайна К. аздабляюць разьбой геаметрычнага ці стылізаванага раслiннага характару, якая пібы звісае і выразна глядзіцца на фоне ценяў на сцяне. Разьбу на накладных дошках робяць і на сцяне пад карнізам, ствараючы з ім адзіны мастацкі элемент. Найбольш пашыраны былі К. ў канцы 19 — пач. 20 ст. ў гарадскім жыллі і ў хатах заможных сялян. Асаблівая разнастайнасць і багацце форм К. характэрны для хат Падняпроўя і Усх. Палесся. К.— абавязковы элемент сучаснай хаты. *С. А. Сергачоў.*



**Карніз** дома ў Гомелі.

**«КАРО́БАЧКА»**, гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана-хуткі. Выконваецца пад мелодыю рус. нар. песні «Карабейнікі». Выканаўцы, узяўшыся рукамі накрыж, прыстаўным крокам рухаюцца па крузе, потым кожны выконвае некалькі вальсавых паваротаў. Працягваючы рух, танцоры робяць прыстаўныя крокі ў бакі і павароты пад рукой. У канцы фігуры хлопец і дзяўчына выконваюць до-за-до. Рухі паўтараюцца некалькі разоў запар у тым жа парадку. Часам у «К.» як другая фігура выконваецца полька або вальс. Мае нязначныя рэгіянальныя адрозненні. З канца 19 ст. распаўсюджаны па ўсёй Беларусі. *А. Л. Варламаў.*



**Каробка.** Любанскі раён.



**Каробка.** Вёска Беражна Карэліцкага раёна.



**Каробкі.** Вёска Славінск Петрыкаўскага раёна.

**КАРО́БКА**, 1) традыцыйная прылада для зімовай лоўлі рыбы, пераважна ўюноў. Называлася таксама кош, дух, рэшата. Пасудзіна з конусападобна ўвагнутым дном з адтулінай (горлам) пасярэдзіне. К. выраблялі з драніцы, лубу, выплялі з дубцоў; часта выкарыстоўвалі старыя рэшоты, дно якіх

замянялі мешкавінай. Горла ў такіх К. падтрымлівалася вяровачкамі, прымацаванымі да верхняга краю рэшата. Устанаўлівалі ў спецыяльна высечаных палонках, якія разам з К. закрывалі галінкамі, сенам і снегам, каб вада ў палонцы не замярзала. Рыба, якая





**Каробка.** Вёска Беражна Карэліцкага раёна.

**Каробкі.** Веска Славінск Петрыкаўскага раёна.

імкнулася да свежай вады з-за недахопу кіслароду ў замёрзлым вадаёме, заплывала ў К., дзе і заставалася да прыходу рыбака. Лоўля рыбы К. была пашырана на Палессі. 2) Ёмістасць для ручной сяўбы; тое, што і *сявенька*. 3) Ёмістасць для захоўвання і пераноскі зерня, круп і інш. сыпучых рэчываў. *І. М. Браім.*

**КАРО́БКА**, від плыта на Нёмане і Віліі ў 19 ст. для перавозкі прадуктаў і тавараў. К. складалася з трох звёнаў даўжынёю да 25 м (т. зв. лава). На звязаны рад бярвён клалі ўпоперак тонкія брусы (навоі), на іх удоўж тры жардкі (повязі), потым зноў упоперак — калодкі (падвалкі), зверху рассцілалі рагожу. Лаву накрывалі лубяным дахам і называлі кладоўкай (шафарняй). Тры шафарні, звязаныя паміж сабою пяньковымі вяроўкамі (канатамі), утваралі К. Грузападымальнасць яе 64—80 т. *Н. І. Буракоўская.*

**КАРО́МЫСЕЛ**, к а р о м ы с л а, тоўстая драўляная палка, прамая ці выгнутая, з падвешанымі кручкамі або з выемкамі на канцах для пераносу на плячах вёдзер з вадой і інш. грузаў. Лакальная назва насілы.

**КА́РСКІ** Сяргей, беларускі этнограф і фалькларыст канца 19 ст. Даследаваў побыт і культуру беларусаў Віленскай губ., пераважна Ашмянскага пав. Друкаваўся ў газ. «Виленский вестник» і інш. У арт. «Народныя беларускія вяселлі ў Ашмянскім павеце Віленскай губерні» (1888), «Эканамічны быт беларусаў Віленскай губерні», «Знешні быт беларусаў у Віленскай губерні», «Сямейны быт беларусаў Віленскай губерні», «Дажынкі», «Каляндарныя святы ў беларусаў Віленскай губерні», «Вялікдзень у беларусаў Віленскай губерні» (усе 1891) і інш. падрабязна разглядаў вытворчую дзейнасць, промыслы, рамёствы, жыллё, адзенне, сямейны побыт, вясельныя і каляндарныя абрады, святы і песні беларусаў. Спачуваў цяжкаму лёсу селяніна, выступаў за развіццё асветы.

**КА́РСКІ** Яўхім Фёдаравіч [20.12.1860 (1.1.1861), в. Лаша Гродзенскага р-на — 29.4.1931], філолаг-славіст, заснавальнік бел. мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф. Акадэмік Пецярбургскай АН (1916, чл.-кар. з 1901), правадзейны член Ін-та бел. культуры (1922), Чэшскай АН (1929). Скончыў Нежынскі гіст.-філал. ін-т (1885), выкладаў у Віленскай гімназіі (1885—93). З 1893 выкладчык рус. мовы, з 1894 прафесар, з 1902 дэкан гіст.-філал. факультэта, у 1905—10 рэктар Варшаўскага ун-та. З 1917 прафесар Петраградскага ун-та. Удзельнічаў у распрацоўцы статута Інбелкульта. Падтрымліваў цесныя сувязі з бел. этнографамі і фалькларыстамі М. Я. Нікіфароўскім, Е. Р. Раманавым, П. В. Шэйнам, з бел. навук.-літ. гуртком студэнтаў Пецярбургскага ун-та, з бел. выдавецкім т-вам «Загляне сонца і ў наша аконца» (Пецярбург). Яго навук. дзейнасць шматгранная і плённая. Ён напісаў больш за 700 прац па славістыцы, беларусістыцы, русістыцы, этнаграфіі, фальклору, палеаграфіі і педагогіцы. Зборанне фальклорна-этнагр. матэрыялаў было для К. сродкам рашэння праблемы паходжання і развіцця бел. мовы. У працах «Беларускія песні с. Беразавец Навагрудскага пав. Мінскай губ.» (1884—85), «Беларускія песні в. Навасёлкі-Затрокскія Віленскай губ. Трокскага пав.» (1889) дакладна перадаў асаблівасці мясцовых гаворак. Па падрыхтаванай ім «Праграме для збору асаблівасцей беларускай гаворкі» надрукавана 6 выпускаў «Матэрыялаў для вывучэння беларускай гаворкі» (1897—1910). Галоўнае ў яго навук. спадчыне — 3-томная праца «Беларусы» (1903—22, 7 вып.), названая энцыклапедыяй беларусазнаўства,— вышэйшае дасягненне еўрапейскай славістыкі канца 19 — пач. 20 ст. На аснове глыбокага, комплекснага, параўнальна-гіст. абагульнення вял. фактычнага матэрыялу навукова абгрунтаваў, што беларускі народ існуе як нац. адзінка, што ён стварыў сваю арыгінальную культуру, родную мову, багатыя традыцыі і невычэрпную скарбніцу твораў вуснай паэтычнай нар. творчасці. Паходжанню бел. народнасці і яе гісторыі прысвечаны 6 раздзелаў 1-га т.— «Уводзіны ў вывучэнне мовы і народнай славеснасці» (1903) і частка 1-га вып. «Народная паэзія» (1916) 3-га т.— «Нарысы славеснасці беларускага племені». Прарадзімай славян К. лічыў Палессе (басейн Прыпяці, верхняга Нёмана і ніжняй Бярэзіны). Перыяд пасля распаду Кіеўскай Русі ён характарызаваў як час утварэння рус., бел. і укр. народнасцей, вызначыў час фарміравання бел. народнасці (13—15 ст.). На аснове лінгвістычных, гіст., археал., этнагр. і антрапалагічных даных прыйшоў да вываду, што беларусы былі аўтахтонамі ў сваёй краіне, у большай сваёй масе яны насялялі праарускую і праславянскую тэрыторыю. Яго сцвярджэнне, што ў аснову бел. народнасці ляглі старарускія плямёны дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў, не падтрымана сучаснай навукай, але К. паказаў, што яшчэ да перыяду фарміравання бел. народнасці працякалі працэсы збліжэння паміж усходнеслав. плямёнамі і асіміляцыя адных другімі, у выніку чаго разбуралася племянная замкнёнасць. Бел. народнасць склалася не з першасных усходнеслав. плямёнаў, а ў выніку распаду не папярэдніцы — старажытнарускай народнасці. Гэты важны момант К. распрацаваў не ва ўсёй паўнаце. Аднак у параўнанні з існуючымі ў той час тэорыямі паходжання рус., бел. і укр. народнасцей ён зрабіў значны крок наперад. Каштоўнасць маюць і звесткі К. пра межы рассялення беларусаў. Спроба вызначэння этнагр. межаў беларусаў зроблена ў яго працы «Агляд гукаў і форм беларускай гаворкі»

(1885). Этнагр. экспедыцыя (1903) па межах распаўсюджання бел. дыялектнай мовы дала магчымасць К. стварыць «Этнаграфічную карту беларускага племені» (Беларусы. Т. 1. 1903). Складзеная паводле моўных прызнакаў, карта мела недакладнасці: значная тэрыторыя паўдн.-зах. часткі Беларусі была аднесена да Украіны, а ўсх. межы выходзілі да лініі Ржэў — Бранск — Ноўгарад-Северскі; больш дакладна былі вызначаны зах. межы Беларусі. У 7-м раздзеле («Нарыс вывучэння жывой беларускай мовы і народнай паэзіі») К. зрабіў крытычны агляд навук. прац канца 18 — пач. 20 ст. па бел. этнаграфіі, мове, фальклору, л-ры. У томе асветлены і важнейшыя этапы гісторыі бел. мовы, яе ўзнікненне і спецыфічныя асаблівасці, узаемасувязі з інш. мовамі, гісторыя вывучэння старабел. літаратурнай мовы і інш. 2-і т. «Мова беларускага племені» (1908—12, вып. 1—3) — пра гукавы і граматычны лад старабел. і сучаснай бел. мовы ў яе народна-дыялектнай і літ. формах.



Я. Ф. Карскі.

У 1-м вып. 3-га т. навук. аналіз фальклорна-этнагр. матэрыялаў. У процівагу міфолагаў, якія лічылі сучасную нар. творчасць астаткам паэтычных поглядаў людзей стараж. перыяду, гаварыў пра эвалюцыю яе ад ніжэйшых форм да вышэйшых. Найб. стараж. жанрам лічыў замовы, разглядаў іх паходжанне, функцыянальнасць, змест, сувязь з язычніцтвам і хрысціянствам, маст. форму. Аналізаў абрадавыя песні, паходжанне, сутнасць і спецыфіку саміх абрадаў і веравання, іх сувязь, маст. форму. Пры разглядзе кожнага з відаў і жанраў вусна-паэтычнай творчасці К. вялікую ўвагу надаваў іх этнагр. аналізу, паказаў як важнейшую крыніцу для вывучэння жыцця, побыту і культуры народа, як сродак выхавання пэўных маральна-этычных норм нар. псіхалогіі. Асаблівую ўвагу надаваў разгляду бел. казкі, упершыню выказаў палажэнне пра іх нац. характар. Паказаў сувязь бел. фальклору з фальклорам рус. і ўкр. народаў. У 2-м вып. «Старая заходнярускае пісьменнасць» (1921) разглядаў помнікі стараж. бел. л-ры 14—18 ст., у 3-м «Мастацкая літаратура на народнай мове» (1922) — бел. л-ру 19 — пач. 20 ст. Вялікае значэнне маюць працы К. па гісторыі рус. і ўкр. моў, славян. палеаграфіі («Славянская кірылаўская палеаграфія», 1928; факсім. выданне 1979), выданне стараж. помнікаў. Аўтар артыкулаў пра айч. і замежных славістаў, рэцэнзій. Навук. спадчына К.— аснова для далейшай распрацоўкі беларусазнаўства.

*Тв.:* О языке так называемых литовских летописей. Варшава, 1894; Западнорусские переводы псалтыри в XV—XVII веках. Варшава, 1896; Русская диалектология. Л., 1924; Очерк научной разработки русского языка в пределах СССР. Л., 1926; Наблюдения в области синтаксиса Лаврентьевского списка летописи. Л., 1929; Белорусы: Язык белорусского народа. Вып. 1—3. М., 1955—56; Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962.

*Літ.:* Булахов М. Г. Евфимий Федорович Карский. Мн., 1981; Карская Т. С. Эпистолярное наследие академика Е. Ф. Карского // Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук. 1982. № 1; Раманові ч Я. М., Юрэвіч А. К. Бібліяграфія прац Я. Ф. Карскага // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1961. Вып. 8; Беларускае мовазнаўства: Бібліягр. указальнік (1825—1965 гг). Мн., 1967. С. 56—59. *В. К. Бандарчык.*

**КАРТУ́З** (гал. kardoes), мужчынскі летні галаўны ўбор з казырком. Шылі найчасцей з чорнага сукна. У канцы 19 — пач. 20 ст. пераважалі К. накшталт вайсковых шапак з шырокім каляровым аколышкам і цвёрдым, часам лакіраваным казырком. На Панямонні і ў Цэнтр. Беларусі традыц. К. (шапку-саламянку) выплталі з саломы. Сярэдзіна яго мела палатняную падшэўку; аколышак і казырок спераду аздаблялі 2 разеткамі, вышытымі чырвонымі баваўнянымі ніткамі.

**КАРУ́НКІ,** тэкстыльныя ажурна-сеткавыя вырабы, у якіх узор утвараецца перапляценнем нітак (ільняных, баваўняных, шаўковых, шарсцяных і інш.); від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Выкарыстоўваюцца для аздобы адзення, бялізны, а таксама як штучныя вырабы (сурвэткі, абрусы, пакрывалы на ложкі, накідкі, шалікі і г. д.). У залежнасці ад тэхнікі выканання падзяляюцца на ручныя (шытыя іголкай, плеценыя на каклюшках, вязаныя кручком або пруткамі) і машынныя.

Шытыя і плеценыя К. ў Зах. Еўропе вядомы з канца 15 ст. На Беларусі К. з залатых, сярэбраных, а пазней з шаўковых і баваўняных нітак выраблялі спачатку ў майстэрнях, створаных пры манастырах, а з 18 ст. і ў маёнтках. У 2-й пал. 18 ст. ў в. Гарадніца каля Гродна на мануфактуры, заснаванай А. Тызенгаўзам, выраблялі К. па замежных (французскіх, нямецкіх) узорах. Вынаходніцтва ў пач. 20 ст. механізмаў садзейнічала распаўсюджанню К. машыннага вырабу.



К. пашыраны па ўсёй Беларусі. Захаваліся вырабы К. з канца 19 ст. Выраблялі іх пераважна з суравых ці адбеленых нітак сваёй работы, пазней — з баваўняных (белых, чырвоных, чорных). Паводле тэхнікі выканання пераважаюць вязаныя кручком, зрэдку на прутках. Да 1930-х г. у некаторых мясцовасцях (Магілёўская вобл.) К. выраблялі на «клёцках» (каклюшках). К. абшывалі каўняры і манжэты жаночых кашуль, аздаблялі фартухі, ручнікі, падзоры, настольнікі, навалачкі. Па краі К. прышываліся ў форме зубчатага бардзюра, а паміж дзвюма полкамі палатна ўстаўляліся ў выглядзе палосы з роўнымі краямі.

Арнаментыка К., вязаных кручком, надзвычай разнастайная: ромбы, пало-





Мужчына ў **картузе.** Камянецкі раён.

Саламяны **картуз.** Гродзеншчына. Усе пачатак 20 ст.

сы, зігзагі, трохкутнікі, крыжыкі, шматпялёсткавыя разеткі, квадраты, стылізаваныя кветкі, лісткі, выявы людзей, фігуркі птушак (куры, пеўнікі, індыкі, лебедзі і інш.), жывёл (сабакі, каты). Арнаментальныя матывы, выкананыя шчыльным пляценнем, выразна чытаюцца на сеткаватым фоне. У К. пач. 20 ст. шмат агульнага з традыцыйным бел. ткацтвам і вышыўкай. Пазней узоры К. набывалі большую ажурнасць, кампазіцыйную будову ў выглядзе дробнарапортнай сеткі, утворанай паўтарэннем аднаго і таго ж матыву. Сурвэткі, настольнікі і інш. штучныя вырабы маюць сеткаватую або дываноcвую кампазіцыю з каймой па краях і цэнтры. Найбольш пашыраны К. белага колеру, двухколерныя (бела-чырвоныя) і трохколерныя (бела-чырвона-чорныя),





Карчага з Навагрудка. 13 ст.

Будынак былой **карчмы**. Вёска Міхалішкі Астравецкага раёна.

характэрны для паўн.-ўсх. раёнаў. З сярэдзіны 20 ст. вядомы аб'ёмныя карункавыя вырабы (карзінкі, кошыкі, вазы, лебедзі і інш.). У наш час К. вырабляюць у асноўным на Палессі як аздобу да ручнікоў, а таксама на фабрыках мастацкіх вырабаў Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР па ўзорах, распрацаваных самімі майстрамі. Асартымент вырабаў: каўняры, манжэты, прошвы, мерныя К., дэкаратыўныя сурвэткі і інш. *В. І. Селівончык.*

**КАРЧАГА**, ганчарны выраб, вялікая, звычайна гліняная пасудзіна для захоўвання і транспарціроўкі прадуктаў. На Беларусі вядомы вузкагорлая і шыракагорлая К. Вузкагорлыя К. былі пашыраны ў 10 — 1-й пал. 13 ст. Тэрмін «кърчага» ўпамінаецца ў помніках старажытнарускай пісьменнасці. Ім абазначаліся амфары, якія выраблялі ў візантыйскіх гарадах паўн. і зах. ўзбярэжжа Чорнага мора і выкарыстоўвалі для дастаўкі на Русь вадкіх прадуктаў — віна, алею і інш. У выніку татара-мангольскага нашэсця ў 13 ст. ўвоз К. на бел. землі спыніўся. Шматлікія абломкі іх выяўлены пры археал. раскопках раннефеадальных гарадоў. Формай вузкагорлая К. падобная на антычную амфару — з пукатым, нярэдка яйкападобным тулавам, дзвюма вертыкальна выгнутымі ручкамі, вострым, закругленым або амаль плоскім дном. Мела тоўстыя сценкі чырвонага, часам шэрага колеру. Для аздаблення ўжываўся контррэльефны лінейны арнамент, пры дапамозе якога паверхні нярэдка надаваўся рыфлены выгляд. На некаторых пасудзінах сустракаюцца прадрапаныя вострымі прадметамі старажытнарускія надпісы: «олъксъш» (Навагрудак), «...ополчо вино» (Пінск) і інш. Шыракагорлыя К. пашыраны з 14—16 ст. Мелі масіўнае пукатае тулава з плоскім дном, часта з дзвюма дугападобнымі ручкамі, якія, як правіла, былі паліваныя. У іх трымалі соленыя грыбы, агуркі, зерне і інш. Формаю і функцыянальным прызначэннем аналагічныя гліняному слою. У канцы 19 — 1-й пал. 20 ст. на Віцебшчыне К. называлі плецены з лазы і саломы *кораб*. У наш час К. выйшлі з ужытку.
*С. А. Мілючэнкаў.*

**КАРЧМА́**, комплекс будынкаў і збудаванняў, дзе спыняліся, харчаваліся, начавалі падарожнікі. Будавалі К. пераважна з дрэва, радзей з цэглы на гандлёвых плошчах гарадоў і мястэчак, на гал. вуліцах, у прадмесцях, на гандлёвых шляхах каля вёсак, фальваркаў, перавозаў праз рэкі, пры млынах і г. д. Вялікія К. ў гарадах і мястэчках наз. *аўстэрыямі*. Паводле функцыянальнага прызначэння К. падзяляліся на заезныя (тыпу гасцініцы) і шынковыя (тыпу харчэўні). На Беларусі К. вядомы з часоў Кіеўскай Русі. З 16 ст. іх размяшчэнне і парадак дзейнасці рэгламентаваліся Статутамі Вялікага кн. Літоўскага, велікакняжацкімі і каралеўскімі прывілеямі, з канца 18 ст.— законамі Расійскай імперыі. Напр., Статут 1529 (раздз. 3, арт. 17) забараняў будаўніцтва К. «пакутных, на месцах неслушных», а Магілёўская ўстава 1594 рэгламентавала будаўніцтва К. «на гасцінцах, і то не блізка сяла... на месцах некаторых назначоных, дзе дамы ўездныя для людзей пераезджых... врад збудаваці павінен». Шынковыя К. мелі простую архітэктурна-планіровачную структуру, якая склалася на аснове планіроўкі традыцыйнага 2- або 3-камернага жылля (хата + сенцы і хата + сенцы + хата). У шынку былі кафляная грубка або камін для абагрэву памяшкання, мураваная печ для прыгатавання ежы, пасярод памяшкання стаяў доўгі стол, вакол яго — лавы; лавы і ўслоны мясціліся і ўздоўж сцен. Каля ўваходу звычайна была паліца ці шафка з посудам. У шынках і сенцах адасабляліся каморы для карчэмнай маёмасці, прадуктаў харчавання і святліцы для заможных наведвальнікаў. Такія К. існавалі ў Барані пад Оршай, Дзярэчыне, Манькавічах пад Столінам, у Паставах і інш. Заезныя К. складаліся з «заезду», размешчанага ў цэнтры або з боку К., вял. хатышынкоўні з каморкамі і гасцінных пакояў. «Заезд» быў аднachасова сенцамі і стайняй, дзе ўздоўж сцен размяшчаліся жалабы, канавязі, драбіны. У архаічных К. з аднаго боку «заезду» размяшчалася белая хата-гасцінная для заможных падарожнікаў, з другога — чорная хата для простага люду (в. Ішкальдзь Баранавіцкага, Пліса Смалявіцкага р-наў). У некаторых К. пры белай гасцінай вылучаўся самастойны блок кухонных памяшканняў. У больш развітых тыпах К. былі спец. стайні і вазоўні, якія размяшчаліся за «заездам» у тыле К. або перад ёю. Жылыя памяшканні гасцінічнага тыпу ў буйных К. перамяшчаліся ў мезанін, у ніжнім ярусе заставаліся толькі кухня, сталовая, гасціная, каморы. Такія збудаванні існавалі ў Койданаве (г. Дзяржынск), Гродне (К. «Раскоша» і «Нёпза», т. зв. Занёманская) і ў інш. месцах. Падвор'е К. забудоўвалася гасп. і вытв. збудаваннямі. На ім размяшчаліся бровар, саладзільня, скляпы, свірны, жыллё карчмара. Пры некаторых буйных К. развіваліся комплексы гандлёвых памяшканняў (Слуцк). У 2-й пал. 18—19 ст. на аснове К. сфарміраваліся новыя тыпы збудаванняў: гасцініцы, паштовыя станцыі, пастаялыя двары і інш. *Ю. А. Якімовіч.*

**КА́РЫ**, лесавозы, сані для перавозкі лесу і будаўнічых матэрыялаў. Рабілі з масіўных, часцей натуральна выгнутых палазоў (копанікаў); апошнія трывала злучалі паміж сабой па капылах дубовымі вязамі, брускамі ці патоўшчанымі на канцах калодкамі

(лісіцамі, або падушкамі). Спосаб укладкі бярвёнаў залежаў ад даўжыні, канструкцыі К., мясцовых тыпаў запрэжкі. Бярвёны клалі на К. сярэдняй часткай, каня запрагалі ў аглоблі, прымацаваныя да бервяна. У другіх выпадках бярвёны клалі на К. камлёвай часткай, а заднія іх канцы валакліся па снезе «цяглом» або кляліся на *падсанкі*. К. шырока выкарыстоўваліся да сярэдзіны 20 ст. У наш час амаль выйшлі з ужытку. *В. С. Цітоў.*

**КАРЫ́ТА**, прадаўгаватая пасудзіна, выдзеўбаная з дрэва або збітая з дошак. Выкарыстоўваецца звычайна для кармлення і вадапою жывёлы.

**КАРЭ́ТА**, чатырохколы закрыты конны экіпаж на рысорах. Была пашырана ў 17 — пач. 20 ст. (у дакументах эпізадычна ўпамінаецца з 16 ст.). Напачатку бытавала пры дварах магнатаў. Мела раскошны і мудрагеліста афармлены паўзакрыты кузаў, падвешаны над колавай асновай на раменных пасах, завешаны з бакоў парцьерамі. У канцы 18 ст. ўдасканалена, стала больш зграбнай і лёгкай на ходу. Кузаў закрыты, больш просты і кампактны, з дзверцамі і зашклёнымі акенцамі на жалезных рысорах, знутры абабіты скурай і тканінамі; пляцоўка для вазніцы (козлы) адчлянялася ад кузава і ўзвышалася над пярэднім ходам. У дэкоры К. адлюстроўваліся агульнаеўрапейскія мастацкія стылі — барока, класіцызм, ампір. К. фарбавалі ў цёмны, радзей папялісты, жоўты, белы колер, пакрывалі лакам, распісвалі, аздаблялі разьбой. Знешні выгляд у многім адлюстроўваў сацыяльнае і маёмаснае становішча іх уладальніка. К. везлі 2—6 коней, запрэжаных папарна цугам. *В. С. Цітоў.*

**КАРЭ́ТНІКІ**, рамеснікі, майстры па вырабу *карэт* і іншых тыпаў конных экіпажаў. Вылучыліся ў выніку паглыбленай спецыялізацыі ў вытворчасці сродкаў *гужавога транспарту*. Упамінаюцца ў дакументах з 16 ст. ў складзе замкавых рамеснікаў. У 17—18 ст. стваралі свае цэхі, куды ўваходзілі звычайна разам з рамеснікамі сумежных прафесій — сталярамі, калёснікамі (стальмахамі), цеслярамі, рымарамі і інш. Складанасць вытворчасці карэт патрабавала кааперацыі працы з удзелам майстроў розных прафесій. Звычайна К. заказвалі важнейшыя часткі карэт: кузавы — сталярам, колы — калёснікам, рысоры — слесарам, розныя гатункі скуры — кушнярам. Потым самі збіралі карэту, абівалі кузаў (у дакументах часам упамінаюцца і «абіўшчыкі карэт»). Акоўку карэт звычайна даручалі кавалям, мастацкую афарбоўку і роспіс — малярам. К. як самастойная прафесія захавалася да пач. 20 ст. *В. С. Цітоў.*

**КАРЭ́Ц**, 1) у колішнім сялянскім побыце пасудзіна (найчасцей драўляная) з ручкай для зачэрпвання і піцця вады, квасу і інш. Называлі К. таксама конаўкай, *каўшом, квартай*. 2) Даўняя мера сыпкіх рэчываў і вадкасці на Беларусі. Раўнялася 1/4 *бочкі віленскай* (прыблізна 102 літры). Пастановай сейма Вял. кн. Літоўскага замест К. зацверджана *чвэрць*.



Карэта.



Кары.



Карэц.



Косы.

**КАСА́**, прылада для скошвання травы і збожжавых культур. Да 15 ст. бытавалі паўкоскі і К.-гарбушы, якімі касілі гарох і траву каля платоў і пнёў. З 15 ст. былі пашыраны К. з доўгім металічным палатном (лязо) і доўгім драўляным кассём (касільна, касавільна, касаўё) з прымацаванай на сярэдзіне яго драўлянай ручкай. Палатно К. мацуецца да касся спецыяльным жалезным кальцом (пяткай). На Палессі, Гродзеншчыне яно наз. рэхвай, на Гомельшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне — банькай, дзе-ні-дзе — напёрсткам, грывянкай. У некаторых мясцінах ПдУ палатно касы прывязвалі да касся дротам або лазой. Для скошвання збожжавых да касся прымацоўвалі грабелькі (грабкі, грабцы), лучок або вілачкі. Грабелькі (тры — чатыры спіцы, выструганыя з ядлоўцу, сасны) мацавалі пад прамым вуглом папярочнай планкай да касся, паралельна з палатном К. У паўд.-зах. і цэнтр. раёнах спіцы пераплялі вяровачкай, лазой, пазней дротам. У канцы 19 — пач. 20 ст. выкарыстоўваліся ў асноўным К.-«вілейкі» («літоўкі»), выраблялі іх на заводзе ў Вілейцы. Перад касьбою К. кляпалі на тупой *бабцы* вострым канцом малатка (наском), на вострай — тупым (пяткай), а ў час касьбы К. вастрылі бруском ці *мянташкай*. У наш час К. выкарыстоўваюць у індывідуальных гаспадарках і для касьбы на забалочаных мясцінах, зарослых хмызняком, у лесе; у калгасах і саўгасах пашыраны конныя і трактарныя касілкі, сіласаўборачныя камбайны і інш. тэхніка. *А. І. Мінько.*

**КАСА́**, адзнака дзявоцкасці, красы і цнатлівасці нявесты, якую яна насіла да *заручын*. На заручынах К. расплятаў. З распушчанымі валасамі маладая хадзіла да *суборнай суботы*. У суборную суботу сяброўкі апошні раз запляталі ёй валасы ў адну К. на *пасадзе* (дзяжы або лаўцы, засланай вывернутым кажухом), уплятаючы пры гэтым шмат шпілек і іголак, каб брат маладой, расплятаючы, пакалоў сабе рукі. Позна

ўвечары ў суботу або ў нядзелю раніцай, калі збіралася ўся радня маладой і садзіліся ўздоўж сцен хаты, маладая разам з дружкамі хадзіла па кругу з уплеценым у К. яркім касніком, красавалася. Дзявочай К. любаваўся і ганарыўся ўвесь род. Брат маладой расплятаў на пасадзе ёй К. і падсмальваў валасы. Прыехаўшы па маладую, малады павінен быў выкупіць за сімвалічную цану яе К. ў брата, які сядзеў побач з ёю або стаяў за плячыма з нажом і пагражаў адрэзаць К. Малады фактычна выкупляў маладую, бо яе К. атаясамлівалася з ёю. Да шлюбу маладая ехала з распушчанымі валасамі. Пасля шлюбу валасы ёй заплляталі ў дзве К. або закручвалі ў куксу і надзявалі жаночы ўбор (намітку; гл. *Завіванне*). Рабілася гэта ў хаце маладога пасля першай шлюбнай ночы, часам адразу пасля вянчання або ў доме маладой перад ад'ездам да маладога. Доўгія валасы даўней служылі адзнакай свабоды. Замужняя жанчына або дзяўчына, у якой было няшлюбнае дзіця, не мела права насіць доўгія валасы. Калі дзяўчына не выходзіла замуж, яна да смерці павінна была заплятаць адну К. (гаварылі, што яна пляце сівую К.). Страта маладой К. азначала страту дзявоцтва, цнатлівасці, а плач маладой па К. меў глыбокі псіхалагічны і паэтычны сэнс. Каравай нявесты акружаўся К., зробленай з цеста, якая, як і сам каравай, сімвалізавала маладую. На ПдЗ Беларусі, дзе каравай пяклі і дзялілі толькі ў доме маладога, у доме нявесты пяклі прадаўгаватыя пірагі (вярчы) у выглядзе плеценай дзявоцкай К. Пакідаючы родны дом, маладая брала верч з сабой, а прыехаўшы ў дом маладога, клала яго на печ, што азначала: з гэтага моманту яна гаспадыня хатняга ачага. *Л. А. Малаш.*

**«КАСЁЦ»**, традыцыйны танец. Называлі таксама «Касар». Музычны памер пераменны — $^2/_4$ або $^3/_4$. Тэмп умераны. У танцы выканаўцы рэзка ўзмахвалі рукамі — імітавалі рухі касцоў. Выконваўся пад песню:

На балоце косар косіць,
Кінуў косу ды галосіць:
Ці ты, мая каса, тупа?
Ці ты, мая жонка, скупа?
Мая каса не тупая,
Мая жонка не скупая,
Мая каса, як меч, вострая,
Мая жонка, як печ, тоўстая.

У некаторых рэгіёнах «К.» зафіксаваны як карагод з адным салістам — «касцом» — у цэнтры, які выбірае сабе дзяўчыну. Танец зафіксаваны ў 19 ст. ў Гомельскай і Гродзенскай абласцях. *С. У. Клімовіч.*

**КАСНІКІ**, каляровыя стужкі, тасёмкі, якімі заплляталі косы і ўпрыгожвалі дзявочую прычоску. К. рабілі таксама з разнакаляровай шоўкавай, баваўнянай тканіны, даматканай шарсцянкі. Шырокімі (каля 6 см) К., кроенымі з светласіняй шарсцянкі, уквечанай пярэстымі (малінавымі, зялёнымі) пучкамі чэсанай воўны, злучалі канцы кос дзяўчаты ў *ляхавіцкім строі* (асабліва прыгожымі былі К. ў вясельным уборы маладой). У наш час у сувязі са зменамі дзявочай прычоскі К. амаль не выкарыстоўваюцца. *М. Ф. Раманюк.*

**КАСПЯРОВІЧ** Галіна Іванаўна (н. 8.3.1948, г. Чашнікі Віцебскай вобл.), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. н. (1982). Скончыла БДУ (1971). З 1974 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе сучасныя этнічныя і міграцыйныя працэсы на Беларусі, фарміраванне і развіццё бел. сацыяліст. нацыі. Аўтар манаграфіі «Міграцыя насельніцтва ў гарады і этнічныя працэсы» (1985), сааўтар прац «Этнічныя працэсы і спосаб жыцця» (1980), «Помнікі этнаграфіі» (1981), «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985), «Святы і абрады ў Беларускай ССР» і «Палессе. Матэрыяльная культура» (1988). *Л. А. Суднік.*



Дзяўчына ў святочным касцюме з **каснікамі.** Вёска *Жарабковічы* Ляхавіцкага раёна. 1905.

**КАСПЯРОВІЧ** Мікалай Іванавіч [9 (22).5.1900, в. Ізабалёва Пухавіцкага р-на — 3.4.1945], беларускі сав. краязнавец, мовазнавец, літаратуразнавец. Скончыў Мінскі ін-т нар. асветы (1921). З 1921 школьны інструктар Наркамата асветы БССР, з 1922 інспектар Слуцкага, з 1924 — Віцебскага аддзелаў нар. асветы, у 1926—29 навук. сакратар Цэнтр. бюро краязнаўства. Пісаў пра гісторыю краязнаўчай працы на Беларусі, яе задачы і методыку (артыкулы «Арганізацыя краязнаўчага руху», «Вывучэнне культурнага стану краю» і інш.), пра неабходнасць даследаваць сялянскі і рабочы побыт (артыкулы «Вывучэнне гісторыі сялянскіх сем'яў», «Вывучэнне быту рабочых»). Аўтар «Беларуска-расійскага слоўнічка» (1925), «Віцебскага краёвага слоўніка» (1927). Вывучаў гісторыю выяўленчага мастацтва, архітэктуру, графіку. Цікавіўся гісторыяй тэатра, навукі, даследаваў асобныя праблемы развіцця бел. літаратуры.

*Тв.:* Беларуская архітэктура. Віцебск, 1925; Краязнаўства. Мн., 1929. *А. С. Ліс.*

**КАСТАМАРАЎ** Мікалай Іванавіч [4 (16).5.1817, с. Юрасаўка Альхавацкага р-на Варонежскай вобл.— 7(19).4.1885], рускі і ўкраінскі гісторык, этнограф, пісьменнік. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1876). Скончыў Харкаўскі ун-т (1836). У 1841 падрыхтаваў магістарскую дысертацыю «Аб прычынах і характары уніі ў Заходняй Расіі», якая была забаронена. У 1844 абараніў дысертацыю «Аб гістарычным значэнні рускай народнай паэзіі», дзе выкарыстаў працы і зборнікі фальклорных матэрыялаў многіх даследчыкаў, у т. л. беларускіх (З. Я. Даленгі-Хадакоўскага). У 1844—45 выкладаў у гімназіях Роўна і Кіева, з 1846 ад'юнкт-прафесар Кіеўскага, у 1859—62 праф. Пецярбургскага ун-таў. У 1847 арыштаваны за ўдзел у тайным Кірыла-Мяфодзіеўскім таварыстве, сасланы ў Саратаў (1848—56). Рэдактар зб. «Акты Паўднёвай і Заходняй Расіі». Падтрымліваў сувязі з М. Г. Чарнышэўскім, М. А. Дабралюбавым, Т. Р. Шаўчэнкам, З. Сераkоўскім, Э. Жэлігоўскім. Прытрымліваўся ліберальных поглядаў. Працы па сацыяльна-паліт. і эканам. гісторыі Расіі і Украіны 17—18 ст. Распрацоўваў пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі украінцаў, беларусаў, рускіх, палякаў і інш. слав. народаў. Памылкова лічыў,



**Каткі:** гладкі і зубчасты.

што канчатковы перыяд этнагенезу беларусаў (таксама рускіх і ўкраінцаў) адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Узнікненне этнічных асаблівасцей у гэтых народаў адносіў да больш ранняга часу і тлумачыў гэта ўплывам з боку суседніх неслав. этнасаў — балтаў, скіфаў, фіна-уграў і інш. У працах К. перабольшваецца значэнне нац. і канфесіянальных і недаацэньваецца роля сацыяльна-эканам. фактараў у гіст. працэсе, выяўляецца нацыяналістычная тэндэнцыя ў характарыстыцы укр. народа і інш. Разам з тым шырокая фактычная база шэрагу гіст. даследаванняў К. абумовіла іх навук. каштоўнасць. Аўтар паэтычных, драматычных і публіцыстычных твораў.

*Тв.:* Последние годы Речи Посполитой//Вестник Европы. 1869. Кн. 2—12; Твори. Т. 1—2. Київ, 1967.

*Літ.:* Пыпин А. Н. Николай Иванович Костомаров//Вестник Европы. 1885. Кн. 5; Попов П. М. М. Костомаров як фольклорист і етнограф. Київ, 1968. *І. У. Чаквін.*

**КАТО́К,** 1) прылада для выраўноўвання і ўтрамбоўвання глебы. Рабочая частка — кругляк даўжынёй 1,5—2 м. К. былі гладкія і зубчастыя. У некаторых мясцовасцях называлі вал, чурбан. 2) Круглая драўляная калодка, на якой перакочваюць цяжкія прадметы.

**КАТРУ́ХА,** назва *магеркі* на ўмоўнай мове дрыбінскіх шапавалаў (адсюль *катрушніцкі лемезень*).

**КАТРУ́ШНІЦКІ ЛЕ́МЕЗЕНЬ,** *умоўная мова* дрыбінскіх шапавалаў. Была пашырана ў мяст. Дрыбін Чавускага павета. Каб трымаць тое, пра што гавораць, у сакрэце, і пазбегнуць яго скажэння, карысталіся мовай толькі па-за домам, у час свайго адыходніцтва (майстры працавалі ў дамах заказчыкаў, пераходзячы з вёскі ў вёску). Часам К. л. не ведалі нават члены адной сям'і, якія займаліся шапавальскім рамяством. Паводле запісаў Е. Р. Раманава, лексічны склад налічваў каля 915 слоў і ахопліваў 13 паняційных груп. Большасць паняццяў выражаліся агульнаўжывальнымі бел. словамі, зацемненымі спецыфічнымі ўстаўкамі-прыстаўкамі: «ку-» (кугpад, кулуг, куцэгла), «шу-» (шурака, шукума, шупіла), «бе-» (беяго, беяе); а таксама вузка дыялектнымі словамі («пісарыць» — пісаць, «моршчык» — нос). Асобныя словы ўтвараліся перастаноўкай складоў («лосома» — салома). Ужываліся словы іншамоўнага паходжання (з грэч. «лыкус» — воўк, з укр. «гербацень» — гусак). Асновы слоў маглі быць невытворнымі («сван» — сват, «хаз» — двор) і вытворнымі («сиворка» — зіма, «псалиць» — пець). Словазлучэнні і сказы ўтвараліся па ўзору агульнанароднай мовы, напр., «гурь ма́ньку хавбо́въ» — дай мне грошай. Фальклорных твораў на К. л. не зафіксавана. *Г. К. Усціновіч.*

**КАТРЫ́НКА,** шарманка, механічны духавы музычны інструмент. Абедзве назвы паходзяць ад папулярнай французскай песенькі «Charmante Catherine», якая першапачаткова выконвалася на К. ў Расіі (на Арланшчыне вядома таксама пад назвай «шарман»). Мела выгляд скрынкі з ручкай (пярэдняя сценка ўпрыгожвалася яркай карцінкай) шырынёй каля 1 м, вышынёй 0,8 м, глыбінёй 0,7 м. Унутры размяшчаліся гучальныя трубкі, спецыяльны механізм для размеркавання паветра, мяхі і некалькі валікаў з металічнымі шпількамі. Створана К. ў 1-й пал. 18 ст. ў Італіі. У 2-й пал. 18 ст. пашырылася ў Зах. Еўропе, у 19 ст.— на тэр. Польшчы, Расіі, Беларусі і Украіны. Стала інструментам вандроўных музыкантаў. Рэпертуар бел. катрыншчыкаў складаўся з 3—4 п'ес («жорсткі» раманс «Разлука», вальс «Разбітае сэрца» і інш.). Часта катрыншчык падпяваў сваёй К. У канцы 19 — пач. 20 ст. К. стала неад'емнай з'явай гарадскога і мястэчковага побыту, любімай забавай гарадскіх нізоў і дзяцей. Найбольш прадпрымальныя катрыншчыкі спалучалі музыканцтва з варажбой пры дапамозе «вучонага» папугая. Канчаткова знікла К. ў канцы 1920-х г. *М. Я. Грынблат, І. Дз. Назіна.*



Катрынка.

**КАЎБАСА́,** мясны выраб. Лакальная назва — кілбаса. Мяккае мяса з лапатак і інш. частак свіной тушы, часам паляндвіцу, дробна сякуць (у наш час пракручваюць на мясарубцы), дадаюць парэзанае сала, соль, часнок, укроп, гарчыцу, каляндру, кмен, перамешваюць і гэтым шчыльна начыняюць тонкія свіныя кішкі. Раней мяса напіхвалі ў кішку рукой, развёўшы яе дроцікам або лубяной дужкай. У наш час — праз трубку, якую прымацоўваюць на мясарубку. У прыгатаванні К. вельмі важным лічылася ў меру пасаліць (калі солі перабольшыць, яна выступае потым на кішках). Таму некаторыя з вечара соляць «недасаль», а раніцай (калі соль растане) каштуюць і пры патрэбе дасольваюць. К. завязваюць у кольцы, вешаюць пад страхой вяліцца. Некаторыя спачатку падсушваюць над печчу, потым перавешваюць у халоднае месца для захоўвання, часам вэндзяць. Звычайна К. захоўвалі да лета, спажывалі ў святы, у пару працаёмкіх с.-г. работ. *Г. Ф. Вештарт.*

**КА́ФЛЯ** (ад ням. Kachel), керамічны выраб для абліцоўкі і дэкаратыўнага аздаблення печаў, камінаў і інш. Уяўляе сабой плітку, тыльны бок якой мае выгляд адкрытай каробкі (румпы) для замацавання ў муроўцы. Паводле форм і прызначэння К. падзяляюцца на сценныя, вуглавыя, паясовыя, карнізныя, а таксама перамычкі, каронкі, дахоўкі, балясіны, медальёны і інш. Паводле мастацкага аздаблення К. бываюць гладкія і рэльефныя, тэракотавыя і паліваныя празрыстай і каляровай палівай, размаляваныя.

На Беларусі выраб К. пашыраны з 14 ст. У дэкоры выкарыстоўвалі геаметрычныя, раслінныя, анімалістычныя матывы, партрэтныя і геральдычныя выявы, сюжэтныя сцэны. Выкарыстанне К. розных памераў, колераў, відаў дэкору ў разнастайных спалучэннях давала магчымасць будаваць печы і каміны розных тыпаў і памераў, адпаведных пэўнаму архітэктурнаму і мастацкаму стылю. К. выраблялі спачатку ўручную на ганчарным крузе, пазней у гліняных, драўляных, гіпсавых формах. Сфармаваныя вырабы высушвалі і абпальвалі ў ганчарных горнах і печах. Першапачаткова К. выраблялі рамеснікі-ганчары, а з 18 ст. кафлярства вылучылася ў асобную галіну прамысловасці. У 14—16 ст. выраблялі гаршковыя К. з вусцямі рознай канфігурацыі (круглай, квадратнай, 3- ці 4-пялёсткавай; вышынёй 2—40 см, 5—20 см у дыяметры), дно зрэдку дэкарыравалі. Спачатку К. рабілі з нятлустай гліняй масы з дамешкамі буйной жарствы, пазней К. фармавалі на ганчарным крузе з тлустых гліняных мас. З 15 ст. пачалі выпускаць каробкавую К., для якой характэрны высокая рамка і круглая румпа, прымацаваная да квадратнай пласціны; больш позняя К. рабілі з невысокай прамавугольнай румпай і вялікай квадратнай або прамавугольнай пласцінай. Яе звычайна аздаблялі геаметрычным узорам (салярныя знакі, квадраты), а таксама выявамі раслін, жывёл, сюжэтнымі кампазіцыямі на бытавыя, гіст. і рэлігійныя тэмы. У канцы 16—1-й пал. 17 ст. бел. кафлярства дасягнула найбольшага росквіту. Мастацкімі якасцямі вызначалася паліхромная К., пакрытая белай, жоўтай, светла- і цёмна-зялёнай, блакітнай, цёмна-сіняй, карычневай палівай. У яе аздабленні (асабліва ў 17 — пач. 18 ст.) пераважала раслінная і геральдычная тэматыка (дзяржаўныя, гарадскія, пэхавыя і родавыя гербы). Геральдычныя кампазіцыі складаліся з выяў картушаў, шчытоў, раслін, жывёл, часам уключалі надпісы на лацінцы або кірыліцы, год вырабу. З 2-й пал. 17 ст. К. выраблялі ў т. зв. дывановым стылі, дзе кожная асобная К. складала частку агульнага малюнка паверхні печы. Бел. кафлярства 17 ст. значна ўплывала і

на развіццё вытворчасці К. ў Рускай дзяржаве, дзе працавалі бел. майстры з Копысі, Мсціслава, Дуброўны, Віцебска і інш. гарадоў (іх вырабамі аздоблены Церамны палац Крамля, Круціцкі церам, царква Георгія Неакесарыйскага ў Маскве, Васкрасенскі сабор Новаіерусалімскага манастыра на Істры і інш.). У 18 ст. памеры К. павялічыліся, мадэліроўка рэльефаў ускладнілася, а выкарыстанне гіпсавых форм палепшыла якасць вырабаў. У аздабленні печаў і камінаў, якія рабілі ў выглядзе ярусных цыліндраў, абеліскаў і інш. на багата дэкарыраваных цокалях, выкарыстоўвалі вялікія К.-ўстаўкі з гарэльефнымі выявамі раслін, жывёл, чалавека. Шырока выкарыстоўвалі гладкія, размаляваныя кобальтам К., т. зв. галандскія, у размалёўцы якіх пераважалі адлюстраванні гіст., батальных, жанравых сцэн, пейзажаў, кніжных ілюстрацый, абразоў. К. канца 19— пач. 20 ст. вызначалася рысамі стылю мадэрн і мела форму рэльефных, паліхромных 4-вугольных пліткаў або фасонных дэталей (медальёнаў, карыятыд, ільвіных галоў і інш.). У той час у Беларусі працавалі заводы ў Бабруйску, Барысаве, Віцебску, Івянцы, Копысі, Мінску, Магілёве, Навагрудку і інш., прадукцыя якіх экспартавалася і за мяжу. Рэльефную К. з сав. сімволікай у 1920—30-я г. выпускаў Копыскі кафляны завод.

*А. А. Трусаў, У. В. Угрыновіч.*



Мінская **кафля** (медальён). Пачатак 20 ст.

**КАФТА́Н**, 1) мужчынскае верхняе адзенне магнатаў і гарадской знаці ў 16—17 ст. Прыйшоў у Рэч Паспалітую з Персіі і Турцыі, праз Беларусь трапіў у Расію. К.— расхінная, шырокая ў падоле вопратка (пашыраннe ўтваралася за кошт кліноў, устаўленых у бакавыя швы) з доўгімі рукавамі. Шылі з аксаміту, парчы або дарагога сукна. Зашпільвалі К. устык на 6—8 пятліц з драўлянымі, металічнымі ці вузялковымі гузікамі; у падоле і па баках К. таксама былі разрэзы з пятліцамі. У 17 ст. К. сталі рабіць з багата аздобленым стаячым каўняром («козырам»). Станавы К. шылі шчыльным да стану з кароткімі рукавамі. Польскі К. быў адразным па таліі; ліф шчыльна ахопліваў фігуру, а ніжняе шырокае крыссе збіралі ў зборкі; рукавы былі









Кафляная печ у будынку Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута. Пачатак 20 ст.

Кафляная печ. Гродна. Пачатак 20 ст.

Вуглавая **кафля**. Лепель. 17 ст.

Мсціслаўская **кафля**. 17 ст.

вельмі шырокімі і пышнымі ля плеч і вузкімі ад локця да кісці. 2) Мужчынская і жаночая вопратка менш заможных слаёў насельніцтва. У 19 ст. на Беларусі былі найбольш пашыраны К. прамога крою з адкладным каўняром, які шылі з сукна або палатна.

*М. Ф. Раманюк.*

**КАХАНО́ЎСКІ** Генадзь Аляксандравіч (н. 8.1.1936, в. Дамашы Маладзечанскага р-на), беларускі савецкі гісторык, краязнавец, фалькларыст. Канд. гіст. навук (1979). Чл. КПСС з 1974. Скончыў Маскоўскі дзярж. пед. ін-т імя У. І. Леніна (1963). З 1964 навук. супрацоўнік, нам. дырэктара, дырэктар Мінскага абл. краязнаўчага музея (Маладзечна), з 1982 навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Вывучае археалогію, музейную справу, гісторыю краязнаўства і дакастрычніцкай фалькларыстыкі. Аўтар літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра пісьменнікаў, фалькларыстаў, этнографаў (Я. Купалу, М. Багдановіча, А. Гурыновіча, Ф. Тапчэўскага, З. Даленгу-Хадакоўскага, Р. Зянькевіча, Я. Баршчэўскага, К. Тышкевіча і інш.), гісторыка-эканам. нарысаў «Маладзечна» (1971), «Вілейка» (1974). Адзін са складальнікаў і аўтараў літаратурна-мастацкага календара «Кола дзён» (1987; 1988).

*Тв.:* На заповетной земле. Мн., 1974; Минский областной краеведческий музей в г. Молодечно. Мн., 1981 (у сааўт.); У родным краі. Мн., 1983; Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984; Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; Повязь часоў. Мн., 1985. Маладзечна: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1988.

*А. Ю. Лозка.*

**КА́ЦЕЦ**, загарода ў выглядзе частаколу, якой перагароджвалі шлях рыбе. У праёме перагародкі рабілі камеру з таго ж матэрыялу, што і перагародка. Сустракаліся К. з дзвюма камерамі, што размяшчаліся па абодва канцы перагародкі. Рыба, якая заходзіла ў камеры праз адтуліны ў перагародцы, вылоўлівалася адтуль рукамі або падсакай. К. быў пашыраны ў 19 ст. на Палессі.

*І. М. Браім.*

**КАЦЁЛКІ**, прыстасаванне для ўмацавання *нітоў* у *кроснах*. У некаторых мясцовасцях называлася чапёлкі, калясцы, ручкі. Амаль на ўсёй Беларусі бытавалі К. ў выглядзе брускоў, у патоўшчанай ніжняй частцы якіх пракручвалі адтуліны і ўстаўлялі рухомыя блочкі (колькасць іх залежала ад колькасці нітоў). Другі тып К.— цыліндр даўж. 15—16 см, дыям. 5—6 см з паглыбленнямі для мацавання вяровачак, на якіх падвешвалі ніты. Зрэдку такія К. ўпрыгожвалі разьбой з нескладаным геаметрычным малюнкам. Бытавалі пераважна на ПдУ.

*Г. М. Курыловіч.*

**КАЧА́ЛКА**, прылада для вырабу валёнак, лямцу, скуры для абутку. Ёю церлі і разгладжвалі скуру для ўшчыльнення. Былі драўляныя і жалезныя, паводле формы — круглыя, рабрыстыя, наразныя (мясцовыя назвы валёк, пруток, рубцы). Вясковымі шапавваламі ўжываюцца і ў наш час.

**КАЧА́ЛКІ**, прыстасаванні для разгладжвання тканых вырабаў (бялізны, адзення). Накручаны на качалку (даўж. 40—60, дыяметр 4—6 см) выраб раскочвалі валком. Валок — прамы ці выгнуты драўляны брус (даўж. 65—80, шыр. 8—10 см) з нарэзанымі ўпоперак трапецападобнымі зубцамі знізу і з ручкай. Ручкі былі двух тыпаў: адны з іх з'яўляліся працягам бруса, другія (накладныя) прымацоўваліся зверху да аднаго з канцоў валка. Часам патоўшчаны канец валка прыстасоўваўся пад ручку — у верхняй частцы выдзёўбвалі скразную авальную



Мінская **кафля.** 17 ст.



Карнізная **кафля.** Івянец. Канец 19— пачатак 20 ст.



**Кафля.** Фрагмент печы ў будынку бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага ў Гродне. Пачатак 20 ст.



Суражская **кафля.** 17 ст.



Качалкі.

адтуліну. Зубцы, як правіла, размяшчаліся шчыльна адзін каля аднаго, часам рабіліся больш рэдка (праз 1—1,5 см). Спінкі валка звычайна плоскія, але сустракаліся і трохгранныя; зрэдку іх дэкарыравалі контурнай разьбой (у выглядзе разеткі, сеткі, паралельных канавак). К. былі пашыраны па ўсёй Беларусі. Трапляюцца і ў наш час.

*А. Ф. Літвіновіч.*

**«КАЧА́Н»**, традыцыйны танец. У некаторых мясцовасцях называўся «Капуста». Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умераны. Выконваўся пад прыпеўкі. У ім рознымі пластычнымі рухамі імітавалі «завіванне качана» (абрастанне яго лісцем). Танцоры браліся за рукі, станавіліся ў ланцужок і закручваліся клубком вакол апошняга танцора, які стаяў на месцы, ці ішлі за першым, ныралі ў «вароты», утвораныя з рук выканаўцаў. Часам танцавалі ўтраіх, ныраючы пад рукі адзін аднаму, ці мяняліся месцамі, круцячыся пад руку. Пашыраны ў асноўным у Паўд.-Зах. Беларусі. Выконваўся 1-й беларускай трупай І. Буйніцкага.

*Ю. М. Чурко.*

**КАЧАРЭ́ЖНІК**, вілачнік, вугал каля печы, дзе стаяць качарга, вілкі, чапяла і інш.

**КАЧЭ́ЛІ**, прыстасаванне, на якім гушкаюцца для забавы; тое, што і *арэлі*.

**КА́ША**, 1) вясельная абрадавая страва, якой частавалі маладых пасля першай шлюбнай ночы (часам і перад шлюбнай ноччу). Калі маладых, накрытых ручніком або наміткай, прыводзілі з *каморы* ў хату, свякроў у вывернутым кажусе пугай здымала з іх пакрывала, кідала яго на печ, а іх садзіла за стол і тройчы папераменна частавала з лыжкі К., трымаючы ў руках пугу. Пакаштаваўшы К., жаніх браў з рук маці лыжку з рэштай К. і кідаў яе на печ. Свякроў «біла» маладых пугай і выганяла з-за стала. Маладыя абягалі вакол стала і выходзілі з хаты, а свякроў садзілася на іх месца. У некаторых мясцовасцях маладая выбягала з-за стала з хлебам у руках, а малады — з соллю і клалі іх на паліцу. Месца маладых за сталом займалі госці. Неўзабаве маладая вярталася з закускай, частавала свякроў, апаясвала яе поясам уласнага вырабу, вешала на плечы ручнік, а на галаву завязвала чыстую хустку (Віцебшчына). У некаторых вёсках Віцебшчыны маладых садзілі за стол, у канцы якога станавілася свякроў з пірагом у руках, а пажылая жанчына з роду маладога несла гаршчок з К. і крычала: «Горача, горача!». Прыданкі маладой кідалі ёй на рукі кавалак палатна. Малады, за ім маладая лыжкай бралі К. і кідалі яе на печ, а свякроў пірагом выганяла з застолля і са сваёй раднёй садзілася на іх месца. Рытуал кідання К. на печ ці ў парог уяўляе сабой рэшткі стараж. абраду ахвярапрынашэння продкам роду. Да 19 ст. яго першапачатковае значэнне сцерлася. 2) Абрадавая страва на *радзінах* (гл. *Бабіна каша*).

*Л. А. Малаш.*

**КАША́НКА**, крывяная каўбаса з варанымі грэцкімі або ячнымі крупамі і тлушчам. Вядома ў Камянецкім, Жабінкаўскім, Лунінецкім, Столінскім і інш. раёнах. Гл. таксама *Крывянка*.

**КАШУЛЯ**, сарочка, асноўная частка мужчынскага і жаночага беларускага народнага адзення. Яе насілі ў любым узросце, у будні і святы, пры любым сямейным і сацыяльным становішчы. Важны паказчык этнічнай спецыфікі матэрыяльнай культуры беларусаў. Шылі з ільнянога даматканага палатна. Мужчыны насілі К. паверх нагавіц і падпяразвалі поясам, жанчыны запраўлялі ў андарак (ці панёву), запіналі фартухом. Паводле крою вылучаюць 3 тыпы К.: тунікападобныя (найб. стараж.) — у згорнутым удвая палотнішчы на перагіне рабілася адтуліна для галавы; с прамымі плечавымі ўстаўкамі (самы пашыраны) — пярэдняя і задняя палавіны стана злучаны на плячах прамавугольнымі палікамі; з гесткай (пашырыліся з канца 19 ст. пад уплывам гарадскога касцюма) — палавіны злучаліся з дапамогай гесткі. Традыц. К. мела прамы рукаў з манжэтай (каўнерцам), адкладны каўнер, прамы разрэз на грудзях, пад пахамі ўстаўныя цвіклі. Бытавалі і К. з невысокім стаячым каўняром або без яго, а таксама жаночым К. з каўняром у выглядзе брыжоў (*калінкавіцкі строй*). Святочныя, асабліва жаночыя, К. аздаблялі (рукавы, каўнер, манішка) натыканнем, вышыўкай, часцей чырвонага і чорнага колеру. Арнамент пераважна геаметрычны.



**«Качан».** Выконваюць жыхаркі вёскі Краснаполле Расонскага раёна.

Рэгіянальныя асаблівасці К. выявіліся ў арнаментыцы, яе кампазіц. вырашэнні, тэхнал. апрацоўцы і крої паасобных дэталей. Строям Цэнтр. Беларусі Падняпроўя характэрна размяшчэнне арнаменту папярочнымі палосамі рознай шырыні на паліках, у версе і нізе рукавоў з акцэнтам на прыплечавой частцы, на каўняры, уздоўж манішкі. У К. Усх. і Зах. Палесся арнаментальныя палосы звычайна аднолькавай шырыні кампанаваліся раўнамерна па ўсёй бачнай плошчы рукава, каўняра, манішкі. Ва ўсх. раёнах арнамент на К., асабліва тых, што насілі з панёвай, групаваўся ў ячэйках, утвораных дыяганальнымі палосамі, або ў шахматным парадку. У мужчынскіх К. аздаблялі манішку, каўнер і падол. К.— найстараж. від адзення на Беларусі, які захаваўся да нашых дзён. Традыц. К. зберагліся ў жаночым гарнітуры некаторых мясцін Палесся, у сцэнічным касцюме. Матывы нар. К. выкарыстоўваюць пры распрацоўцы сучасных мод.

*М. Ф. Раманюк.*

**«КАШЭ́ЛЬ»**, традыцыйны танец. У некаторых мясцовасцях называўся «Кошык», «Кошычак». Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умераны. Выконваўся парамі (часцей у 4 пары). Асноўны крок — «полька» ў пары па крузе. У танцы дзяўчаты мянялі партнёраў: пераходзілі да таго, які стаяў наперадзе. У некаторых рэгіёнах танец выконваўся ў двух кругах (мужчынскі — унутраны, жаночы — знешні). Выканаўцы, узяўшыся за рукі, рухаліся ў процілеглыя бакі. Мужчыны падыходзілі да знешняга круга з паднятымі ўгору рукамі, апускалі іх і перакрывалі рукі жанчын. Такім чынам рукі выканаўцаў пераплятаіся. Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гомельскай і Віцебскай абласцях.

*С. У. Клімовіч.*

**КАЯЛО́ВІЧ** Міхаіл Восіпавіч [20.9 (2.10).1828, мяст. Кузніца Беластоцкага ваяв. ПНР — 23.8(4.9).1891], рускі гісторык, публіцыст і грамадскі дзеяч. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1855), дзе пасля выкладаў. Па сваіх поглядах блізкі да панславістаў, прыхільнік ліберальна-памяркоўнага кірунку заходнерусізму. Асноўныя працы прысвечаны гісторыі Беларусі, Польшчы і Расіі. Аўтар гіст.-этнагр. даследаванняў «Пра рассяленне пляменаў Заходняга краю Расіі» (1863), «Пра этнаграфічны атлас заходніх губерняў» (1863), «Пра этнаграфічную мяжу паміж Заходняй Расіяй і Польшчай» (1864) і інш. Да працы «Дакументы, якія тлумачаць гісторыю Заходнярускага краю і яго адносіны да Расіі і Польшчы» (1865) дадаў этнагр. карту. Закранаў пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў, рускіх, літоўцаў і інш. Беларуская народнасць, на яго погляд, склалася ў 10—11 ст. з пляменаў крывічоў і дрыгавічоў і раднілася па веры, мове і этнагр. традыцыях з рускімі і ўкраінцамі. К. адзначыў пэўную розніцу паміж усх. і зах. беларусамі, што тлумачыў вынікамі міжэтнічных кантактаў з літоўцамі і палякамі ў 14—18 ст., а таксама палітыкай акаталічвання і апалячвання ў Рэчы Паспалітай. Далучэнне Беларусі і Украіны да Расіі ў канцы 18 ст., на думку К., адрадзіла старарускае адзінства. Адмаўляў за беларусамі, літоўцамі і ўкраінцамі права на нацыя-

нальнае самавызначэнне; усякі пазітыўны ўплыў зах. народаў і культур на ўсходнеслав. народы. Выступаў супраць паўстання 1863—64. У 1885—87 апублікаваў нататкі пра падарожжа па Беларусі і Літве. Многія працы К. напісаны з тэндэнцыйнай падборкай фактагічнага матэрыялу і суб'ектыўнымі поглядамі на гісторыю ўсх. славян і іх суседзяў.

*Тв.*: Лекции по истории Западной России. М., 1864; Историческая живучесть русского народа и его культурные особенности. Спб., 1883; История русского самосознания. ...3 изд. Спб., 1901.

*І. У. Чаквін.*

**КВА́РТА** [ад лац. quarta (pars) чвэрць], 1) адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасцей у сістэме мер Вялікага княства Літоўскага. Раўнялася $^1/_4$ *гарца* (0,70577 літра). 2) Металічная пасудзіна з ручкай для піцця (роўная прыблізна гэтай меры).



Кроі **кашуль**: 1 — тунікападобны (Гомельшчына); 2 — з гесткай (Міншчына); 3, 4 — з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па ўтку (3 — Міншчына) і па аснове (4 — Брэстчына).

**«КВАРТА́ЛЬНІК ЛІТО́ЎСКІ»** («Kwartalnik Litewski», «Літоўскі штоквартальны часопіс»), гісторыка-краязнаўчы і этнаграфічны папулярызатарскі часопіс. Выдаваўся на польскай мове ў Пецярбургу ў 1910—11 (усяго 6 т.) гісторыкам і публіцыстам Я. Обстам. Змяшчаў матэрыялы па гісторыі, краязнаўству, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага, польскага, літоўскага, латышскага народаў, біяграфічныя звесткі. У часопісе надрукаваны артыкулы: «Вясковыя песні з па-над Нёмана і Дзвіны» (рэдакцыйны, 1910, т. 1), у якім да нарыса пра гісторыю вывучэння бел. нар. песні дадаюцца тэксты са збору А. Грыневіча «Беларускія песні з нотамі»; «Велікодныя песні на Міншчыне (валачонікі)» Я. Булгака (1911, т. 5); «Некаторыя вераванні, прымхі і забабоны нашага люду, легенды і паданні» (1910, ч. 1—2, т. 2; 4) і «Даўнія лячэбныя сродкі» (1911, т. 5) В. Шукевіча; «Адно з неадкладнейшых заданняў польскай этнаграфіі на Літве» Л. Васілеўскага (1911, т. 6), дзе на прыкладзе польскай этнічнай групы разглядаюцца асаблівасці расселення і размежавання этнічных груп, што жылі на тэр. Беларусі; здымкі бел. нар. адзення Я. Булгака («Альбом народных тыпаў», 1910, т. 1). Сярод аўтараў этнографы і фалькларысты З. Глогер і М. Федароўскі. У 1912 — 13 часопіс выдаваўся ў Вільні пад назвай «Litwa i Ruś» («Літва і Русь»).

*І. В. Карашчанка.*

**КВАС**, 1) х л е б н ы, д з е ж н ы, старадаўні кісла-салодкі напітак. Гатавалі К. па-рознаму. Паводле апісання Е. Р. Раманава, на Магілёўшчыне К. рабілі так: з жытняй мукі замешвалі густое цеста, 2—3 дні яно саладжала, потым з яго выпякалі хлябы, якія рэзалі і сушылі. Сухары кідалі ў бочку з халоднай вадой. Праз тыдзень К. быў гатовы. У паўд.-зах. частцы Беларусі на К. спецыяльна пяклі з жытняй мукі праснак (квасніk), які залівалі гатаванай вадой. На праснак жытнюю муку запарвалі (парылі ў печы «да чырвонага», тады напітак меў прыгожы жоўты колер). Рабілі К. і на рошчыне: жытнюю муку запарвалі, каб яна набыла салодкі смак, улівалі ў хлебную дзяжу, далівалі вады і ставілі ў цёплае месца, каб К. укісаў. Пры недахопе мукі К. рашчынялі на жытнім вотруб'і (праснак тады пяклі з варанай тоўчанай бульбы і жытняй мукі). Для паху ў напітак кідалі мяту, чабор, для рэзкасці і колеру — падпражаны ячменны солад або ячмень. Пазней К. сталі настойваць на хлебных сухарах, скарынках. На Магілёўшчыне для смаку ў К. дадавалі трохі вашчыны або мёду. К. пілі, на ім гатавалі гарачыя і халодныя рэдкія стравы. У сенакос, жніво К. бралі на поле. На квасовай гушчы рашчынялі хлеб.

На ўсёй Беларусі К. рабілі з бярозавага (бярозавік) і кляновага (кляновік) соку: сабраны сок ставілі ў бочкі квасіцца, дадавалі трохі ячменнага соладу або падпражанага ячменю, часам вашчыны або мёду. На зіму К. рабілі з брусніц і журавін: іх залівалі гатаванай вадой, трымалі ў халодным месцы. На Палессі К. называюць адвар і настой з сухіх груш і яблыкаў.

2) Квашаныя буракі, расол з квашаных буракоў. Такі К. звычайна рабілі вясной: буракі чысцілі, мылі, залівалі ў бочцы ці інш. пасудзіне вадой. Буракі ўкісалі самі па сабе, зрэдку ў іх дадавалі шчаўе. К. пілі, варылі з буракамі, гатавалі, дадаўшы крухмалу, кісель. Быў вядомы па ўсёй Беларусі. Шмат дзе бурачны К. робяць і ў наш час.

3) Рэдкая кіслая страва, прыгатаваная на К. або з квашанай гародніны. Вараць мяса або рабрыну з цыбуляй, потым дадаюць крупы ці муку, уліваюць хлебны К. або некалькі лыжак рошчыны. К. варылі з грыбамі, сухой рыбай. Даўней такі К. абавязкова варылі на дзяды, вяселле. Вядомы на Гродзеншчыне, Случчыне, Гомельшчыне.

*Г. Ф. Вештарт.*

**КВАСО́ЎКА**, кіслая, рэдкая крупяная страва, прыгатаваная на хлебным або бярозавым квасе, часам — на сыроватцы (Тураўшчына). У некаторых мясцовасцях вядома пад назвай квасавіца. Маглі варыць са свежымі або сухімі ягадамі, сухімі яблыкамі, грушамі. Дадавалі крупы і падсалоджвалі. Вядома на Гомельшчыне.

**КВА́ША**, кісла-салодкая мучная страва. Гатавалі з сумесі жытняй і грэцкай, радзей — толькі з жытняй мукі. Муку разводзілі цёплай вадой, потым залівалі варам (або наадварот — залівалі халоднай вадой і ставілі ў цёплае месца), каб набыла салодкі смак (усаладжала), потым заквашвалі скарынкай хлеба. К. кісла ноч, раніцой варылі. Часам К. рабілі з прасяных круп, якія папярэдне змочвалі. Вядома на Цэнтр. Палессі (Лунінецкі, Жыткавіцкі, Ельскі, Лельчыцкі, Столінскі р-ны). Падобна да *кулагі*, *саладухі*.

*Г. Ф. Вештарт.*

**КВАШАНІ́НА**, х а л а д з е ц, традыцыйная мясная страва, звычайна са свініны. Лакальныя назвы квашэліна,

дрыгва, застудзіны, юха. Свіныя ногі, хвост, часткі галавы (лыч, вушы) чысцяць, мыюць, сякуць на кускі, вараць у падсоленай вадзе. Дадаюць моркву, цыбулю, у наш час таксама перац і ліст. Вараць доўга, каб мяса ўпарылася і адстала ад касцей. Потым яго вымаюць, выбіраюць з яго косці, рэжуць, дадаюць дробна пакрышаны сыры часнок. Раскладваюць па місках, заліваюць працэджаным булёнам (юшкай) і ставяць у халоднае месца, каб застыла. Раней гатавалася К. на вяселле і інш. святы. Вядома па ўсёй Беларусі.
*Г. Ф. Вештарт.*

**КІВО́Т**, драўляная шафка або палічка з абразамі, нярэдка зашклёная, прамавугольнай ці трохвугольнай формы; тое, што і *бажніца*.

**КІКІ́МАРА**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. усходнеславянскіх народаў. На Беларусі К. ўяўлялі фантастычнай істотай у выглядзе дзяўчынкі. Лічылася, што К. звычайна знаходзіцца на печы ці ў падпечку, што ў хаце адначасова магло «дзейнічаць» некалькі К. Паводле павер'яў К. ўвасаблялі заўчасна загінуўшых маленькіх дзяўчынак, якія нябачна прысутнічалі ў хаце, назіралі за гульнямі жывых дзяцей, часта самі гарэзнічалі (тады ў хаце быццам чуўся піск), але заціхалі і ўздыхалі, калі маці пачынала лашчыць і песціць сваіх дзяцей. Таксама К. былі ўвасабленнем дрэнна зробленых жаночых работ. Яны нібыта прадаўжалі пачатую гаспадыняй работу, пралі, шылі, але рабілі гэта дрэнна: ніткі атрымліваліся няроўныя, швы — крывыя. Павер'і пра К. былі пашыраны пераважна па Пн Беларусі і захоўваліся да канца 19 — пач. 20 ст.
*М. Ф. Піліпенка.*

**КІ́РАЎСКІЯ РУЧНІКІ́**, традыцыйныя тканыя ручнікі, якія выраблялі ў вёсках Кіраўскага, Клічаўскага і Бабруйскага р-наў да 1930-х г. Ткалі з адбеленага кужалю (аснова, уток) і белых баваўняных нітак (уток) у тэхніцы 1—2-уточнага і 4- і 5-нітовага пераборнага ткацтва. Арнаментальную паласу на канцах ручнікоў ткалі з чорных і чырвоных баваўняных нітак бранай двухуточнай тэхнікай, асобныя элементы вышывалі крыжыкам. Узор шыр. 20—30 см складаўся з простых і зубчатых ромбаў, разетак, прамавугольнікаў і аддзяляўся ад белага поля ручніка вузкім узорыстым пасачкам або радам асобна размешчаных ромбаў, разетак. Асаблівасць К. р. надаюць плецены «на клёцках» і вязаныя кручком карункі, якія вызначаліся багаццем арнаментальных форм (ромбы, трохкутнікі, крыжыкі, прамыя і хвалістыя лініі). Канцы ручнікоў з трох бакоў абшывалі чырвонымі, белымі, чырвона-чорнымі мохрыкамі.
*В. І. Селівончык.*

**КІРКО́Р** Адам Ганоры Карлавіч (псеўд. Я н с а С л і в і н а, Я н В а л і г у р с к і, С а б а р ы і інш.; 21.1.1818, в. Слівіна Манастыршчынскага р-на Смаленскай вобл.— 23.11.1886), беларускі, польскі і рускі грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку, этнограф, публіцыст, выдавец, гісторык, краязнавец, археолаг, літаратуразнавец. Чл.-кар. Імператарскага археал. т-ва (1856), чл. Рускага геагр. т-ва (1857), Акадэміі ведаў у Кракаве (1873), член Віленскай археал. камісіі (з 1855), хавальнік Віленскага музея старажытнасцей, ахвяраваў яму ўласную археалагічна-этнагр. калекцыю, сабраную ў час экспедыцый па Мінскай і Віленскай губ. Вучыўся ў Магілёўскай (да 1834) і Віленскай (да 1838) гімназіях. У Вільні ў 1840—60-я г. выдаваў літ.-навуковыя альманахі: «Radegast» («Радэгаст»), «Памятныя кніжкі Віленскай губерні», «Pismo zbiorowe Wileńskie» («Віленскі альманах») і інш., часопіс «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік»), дзе змяшчаў свае працы па гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы. Рэдактар газ. «Виленский вестник» (1860—65), кіраўнік гуртка бел., польск. і літоўскіх літаратараў і дзеячаў культуры (Вільня, 1850—60-я г.). З 1859 уладальнік друкарні ў Вільні, у 1868—71 адзін з выдаўцоў газ. «Новое время» ў Пецярбургу. З 1872 у Кракаве. Чытаў лекцыі па славян., у т. л. бел., літаратурах у Кракаўскім тэхнічна-прамысловым музеі. Вывучаў, папулярызаваў гісторыю, антрапалогію, матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, падкрэсліваў гіст.-этнічную самастойнасць і самабытнасць бел. народа, яго крэўнасць ці пэўнае падабенства з рус., укр., польск., літоўскім народамі. У працах «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі» (1839), «Аб этнаграфічнай мяжы літоўскай і славянскай народнасцей у Літве» (1857), «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—59), «Этнаграфічныя нарысы Сувалкскай губерні» (1873), у публікацыях «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе» («Жывапісная Расія», т. 3, ч. 1—2, 1882) даў этнічную і сацыяльна-бытавую характарыстыку тыпаў беларуса, адзначыў яго высокія духоўна-маральныя якасці (прывязанасць да зямлі, працавітасць, кемлівасць, дасціпнасць), падкрэсліў самастойнасць бел. мовы, яе багатыя пісьмовыя традыцыі і інш. Падрабязна разгледзеў бел. вусна-паэтычную творчасць: песні, прыказкі, прымаўкі, паданні на матэрыяле Ашмянскага, Лідскага, Свянцянскага, Вілейскага, Нясвіжскага, часткова Сакольскага паветаў, апісаў абрады і звычаі (дажынкі, вяселле, пахаванне), гульні і танцы («Жаніцьба Цярэшкі», «Падушачка», «Мяцеліца»), святы (каляды, купалле, вялікдзень) і інш. Праілюстраваў апісанні арыгінальнымі тэкстамі нар. песень, у большасці запазычанымі (без спасылак) з ранейшых публікацый Я. Тышкевіча, Я. Чачота; для тлумачэння бел. тэкстаў склаў невялікі бел.-рускі слоўнічак. У духоўнай культуры беларусаў вял. ролю аддаваў міфалагічным крыніцам, недаацэньваў яе рэальнага, сацыяльна-бытавога кантэксту. У кнізе «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874) найб. выразна праявіўся цэласны, пазбаўлены прымітыўнага этнаграфізму падыход да бел. культуры як да шматвяковай гіст. з'явы ў адзінстве пісьмовых і вусна-паэтычных, фальклорных відаў творчасці. Аўтар успамінаў.



А. Г. К. Кіркор.

*Літ.:* Я н ч у к Н. А. Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; Z i e m k i e w i č B. Adam Honory Kirkor. Wilnia, 1911; O l e c h n o w i c z M. Polscy badacze folkloru i języka białoruskiego w XIX wieku. Łódź, 1986.
*А. К. Каўко.*

**КІРМА́Ш**, святочна абстаўлены расшыраны гандаль, што адбываўся перыядычна ў пэўнай мясцовасці. Прымяркоўваўся да пэўнага прастольнага або храмавага свята (фэсту), ад якога часта атрымліваў назву (троіцкі, ільінскі, спасаўскі, пакроўскі і інш.). К. ўзніклі ў перыяд ранняга сярэднявечча. Арганізатарамі нярэдка выступалі манастыры, апекунамі — вялікія князі ці мясцовыя магнаты. Звычайна К. збіраліся ў мясцовасцях, надзейна гарантаваных ад грабяжу і сваявольства мясцовых паноў і не абцяжараных мытамі і грашовымі паборамі. Дазвол на правядзенне К. быў адным з важных феадальных прывілеяў. Істотная роля К. ў грамадскім і эканам. жыцці краю абумовіла сістэму абавязковых норм і рэгламентацый, што з цягам часу склаліся ў кірмашовае права. К. пакінулі прыкметныя сляды ў нар. мове і фальклоры. Яны ўцягвалі ў культурна-эканам. працэс вялізную масу насельніцтва. На К. з'язджаліся сяляне з навакольных вёсак, прывозілі на продаж сельскагаспадарчыя прадукты і саматужныя вырабы. На буйныя (рэ-

гіянальныя) К. прыязджалі гандляры і купцы з іншых бел. гарадоў і іншаземныя госці. Яснавяльможныя паны з'язджаліся сюды разам з прыслугай на свае саслоўныя з'езды — асамблеі, бавілі вольны час у банкетах і забавах; тут яны выбіралі прадвадзіцеляў, ці маршалкаў, заключалі розныя кантракты, наймалі адміністратараў маёнткаў, аканомаў, пісараў. Дробнапамесная і беззямельная шляхта шукала тут сваіх сеньёраў, прапаноўвала паслугі (і сваю шпагу) буйным магнатам. Так званыя падпанкі заключалі ці ўзнаўлялі дагаворы на арэнду фальваркаў, лясоў, млыноў. На К. падпісваліся кантракты на продаж нерухомай маёмасці. Многія прыязджалі сюды, каб сустрэцца з крэдыторамі, расплаціцца з даўгамі ці атрымаць грашовую пазыку ў ліхвяроў. Іншых вабіла разнастайная культ. праграма, сустрэчы, знаёмствы. На К. наладжваліся масавыя гульні, відовішчы, турніры, танцавальныя рауты. Вакол гандлёвай плошчы размяшчаліся корчмы, шынкі, балаганы, атракцыёны. Сваё майстэрства паказвалі камедыянты, акрабаты, дрэсіроўшчыкі з мядзведзямі (гл. *«Мядзведжыя пацехі»*), варажбіткі, сярод іх было многа цыган. Выступалі вандроўныя *кірмашовыя тэатры* і мясцовыя прыгонныя тэатры, у прыватнасці, тры такія тэатры — у Зэльве, Ружанах, Дзярэчыне — іспавалі пры маёнтках кн. Сапегаў. На бел. К. прыязджалі тэатральныя трупы з Польшчы, Прусіі, Аўстра-Венгрыі, Францыі і інш. краін.

У 18— пач. 19 ст. найбуйнейшыя К. адбываліся ў Зэльве, Свіслачы, Нясвіжы, Любавічах (б. Аршанскі пав.), Гомелі, Бешанковічах. Значнымі кірмашовымі цэнтрамі былі Мінск, Навагрудак, Ігумен (Чэрвень), Мір, Брэст, Кобрын, Пінск. Апрача прадметаў мясцовай прамысловасці і сельскай гаспадаркі на бел. К. дастаўлялася шмат тавараў з суседніх абласцей і з-за мяжы. З Польшчы прывозілі бытавыя і галантарэйныя тавары, дываны, люстэркі, інструменты; з Прыбалтыкі — жалезныя вырабы, фарбы, гатовае адзенне, «заморскія» тавары (чай, каву, віно і інш.); з Украіны — соль, тытунь, цукар, хлеб, жывёлу; з Расіі — баваўняныя і шаўковыя тканіны (з Масквы), скураныя і дывановыя вырабы (з Казані), фарфоравы і фаянсавы посуд (са Смаленскай губ.), жалезныя і медныя вырабы тульскіх заводаў. Беларускія К. адрозніваліся паміж сабой спецыялізацыяй гандлю: на адных гандлявалі ў асноўным сельскагаспадарчымі таварамі і прадметамі дробных промыслаў, на другіх — пераважна жывёлай (т. зв. скотныя, ці конныя, К.), на трэціх — прамысловымі таварамі і прадметамі раскошы. У асобую групу вылучаліся т. зв. кантрактныя К. (у Мінску, Пінску, Навагрудку). Асобныя К. былі вядомы продажам вял. колькасці хлеба. Асенні К. у Парычах (Светлагорскі р-н) славіўся гандлем грыбоў, якіх тут за адзін дзень прадавалася на суму да 20 тыс. руб. Кожны К. меў свой мясцовы этнакультурны каларыт, што выяўлялася ў этнічным і сацыяльным складзе яго наведвальнікаў, у мясцовых традыцыях і звычаях, у выступленнях тэатральных труп і самадзейных фальклорных калектываў, у нар. адзенні, транспартных экіпажах, прадметах нар. промыслаў. Бойкі гандаль ішоў на плошчы непасрэдна з вазоў, гандлявалі ў балаганах і ў разнос, кожны пасвойму рэкламаваў свой тавар і рознымі сродкамі (рэкламным паказам, трапным словам, ігрою на дудцы і інш.) прывабліваў да сябе пакупнікоў.



Кірмаш. Вёска Дражын Бабруйскага павета. Пачатак 20 ст.

Буйныя К. працягваліся ад 2 тыдняў да аднаго месяца (Зэльва, Любавічы, Свіслач, Нясвіж). Яны звычайна дзейнічалі не адначасова, а паслядоўна, нібы прадаўжаючы адзін аднаго. У перыяд паміж К. 1—2 разы на тыдзень збіраліся таргі, дзе гандлявалі звычайна мясцовымі таварамі. К. былі прыкметнай з'явай у грамадскім жыцці ў перыяд феадалізму. Рассеяныя па ўсёй Беларусі, яны аб'ядноўвалі мясцовыя рынкі, разбуралі патрыярхальную замкнёнасць, вялі да ўмацавання этнакультурнага адзінства і інтэрнацыянальных сувязей насельніцтва. У выніку пастаянных кантактаў ствараліся спрыяльныя ўмовы для ўзаемаабмену, узбагачэння мясцовай культуры. З развіццём капіталіст. адносін і паляпшэннем сродкаў зносін К. паступова саступалі месца рэгулярнаму гандлю. Традыцыі К. адраджаюцца ў наш час.

*В. С. Цітоў.*

**КІРМАШО́ВЫ ТЭА́ТР**, паказы народнага тэатра на *кірмашы*. Найбольш пашыраны на Беларусі ў 16— пач. 20 ст. Уключалі акрабатычныя нумары, выступленні скамарохаў, штукароў, павадыроў мядзведзяў (гл. *«Мядзведжыя пацехі»*), а таксама паказы *батлейкі* і *райка*. У Докшыцах на кірмашах у пач. 20 ст. карысталіся папулярнасцю паказы батлейкі Патупчыка з вострымі сатырычнымі сцэнкамі на мясцовыя сюжэты.

**КІСЕ́ЛЬ**, 1) даўняя мучная страва. Варылі з аўсянай, жытняй, пшанічнай грубага памолу (разавай) мукі, часам з вотруб'я. Падобны на *жур*. Рашчынялі К. на заквасцы або для заквашвання кідалі кавалак хлеба. Рошчыну на К. ставілі ў цёплае месца на ноч, потым працэджвалі і з «цэду» гатавалі К. Варылі густым (увесь час памешваючы), потым разлівалі па місках і ставілі ў халоднае месца, каб застыў. Пра К., які ўдаўся, казалі: «Як кваշаніна, хоць танцуй на ім». К. прыпраўлялі (засмачвалі) алеем, салам, запівалі сырадоем, «прысёрбвалі» *валогай* (казалі: «Кісель у дзве лыжкі ядуць — кісель у адну, валогу ў другую»). Найбольш пашыраны быў аўсяны К. Часам варылі прэсны К. з гарохавай мукі. Дзеля гэтага моцна разварвалі гарох, прапускалі яго праз рэшата, давалі застыць. Елі з алеем. К. вядомы па ўсёй Беларусі. На посную *куццю* быў адной з абавязковых страў. 2) Дэсертная страва з адвару ягад, груш, яблыкаў, заваранага бульбяным крухмалам. Даўней варылі вельмі густым, каб застываў. Традыцыйны К.— журавінавы. Вядомы паўсюдна.

*Г. Ф. Вештарт.*

**КІ́ШКІ**, страва, запечаная ў тоўстых свіных кішках. У некаторых мясцінах пашыраны назвы паліванкі, ведары. Кішкі старанна чысцілі, вымывалі; у іх лыжкай улівалі цёртую сырую пасоленую бульбу з тлушчам. Потым зашывалі і пяклі з тлушчам на блясе. К. налівалі таксама прыскваранымі цестам з грэцкай мукі. Вядомы ў Паўн., Зах. і Цэнтр. Беларусі.

**КЛАДО́ЎКА**, гаспадарчая пабудова для захоўвання збожжа, прадуктаў харчавання; схо́вішча найбольш каштоўнай маёмасці; тое, што і *камора*.

**КЛАРНЕ́Т** (ням. Klarinette ад лац. clarus ясны гук), драўляны духавы язычковы музычны інструмент. Другая пашыраная назва — дудка. Мае цылінд-

рычны ствол з раструбам на адным канцы і дзюбападобным муштуком з прымацаваным адзінарным язычком (*пішчыкам)* на другім. Створаны К. у Германіі (каля 700) на аснове французскага нар. інструмента шалюмо, аналагічнага па канструкцыі бел. *жалейцы.* Паводле гіст. звестак на Беларусі паявіўся ў 2-й пал. 18 ст. спачатку ў прафесійных аркестрах (Нясвіж, Гродна, Шклоў, Слонім і інш.), з 2-й пал. 19 ст. пашырыўся ў нар. побыце. Гэтаму садзейнічалі ваенныя музыканты з сялян, якія, адслужыўшы, вярталіся дамоў, а раней, магчыма, і прыгонныя аркестранты, якія спасцігалі навуку ігры на К. ў магнацкіх капэлах. З цягам часу фабрычны К. выцесніў самаробную жалейку. У сучаснай нар. музычнай практыцы К. выкарыстоўваюць у інструментальных ансамблях, дзе спалучаецца са скрыпкай, з цымбаламі або з гармонікам, а таксама з гармонікам, скрыпкай і барабанам. Іграючы на «музыках» (танцах), вечарынках, бяседах, вяселлях, гэтыя ансамблі выконваюць песні, танцы і маршы. Сярод нар. кларнецістаў ёсць таленавітыя выканаўцы-імправізатары — П. Р. Апановіч і М. М. Семянчук са Столінскага р-на і інш. У наш час К. зрэдку сустракаюцца на Міншчыне і Брэстчыне. *І. Дз. Назіна.*

**КЛЕЙНА**, назва звяна *плыта* ў бас. Прыпяці. Дзве К. складалі плыт.

**КЛЕЦКІ ГІСТОРЫКА-ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны 29.10.1961 у г. Клецк як школьны музей, з 1.9.1979 дзяржаўны. Мае 4 экспазіцыйныя залы (пл. экспазіцыі 114 м²), больш 3,8 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988). Аддзелы: далёкае мінулае, рэвалюцыя і Вял. Айч. вайна, эканоміка, этнаграфія. У экспазіцыі матэрыялы археал. раскопак на тэр. раёна, зброя 18 — пач. 20 ст. і інш.; матэрыялы пра ўдзел ураджэнцаў краю ў Кастр. рэвалюцыі і грамадзянскай вайне, пра барацьбу насельніцтва Зах. Беларусі за сац. і нац. вызваленне і ўз'яднанне з БССР, пра партыз. рух у Вял. Айч. вайну, вызваленне раёна ад ням.-фаш. захопнікаў, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў пасляваенны час. У этнаграфічным аддзеле прылады працы і побыту сялян 19 — пач. 20 ст. (плугі, драўляная барана, жорны, кросны, вырабы з лазы, ручнікі, посцілкі і інш.), музычныя інструменты, калекцыі нар. адзення, тканін, ганчарных вырабаў, работы мясцовага разьбяра па дрэве А. Мормаля. *Т. М. Высоцкая.*

**КЛЕЦЬ**, традыцыйная сялянская гаспадарчая пабудова для захоўвання збожжа, прадуктаў, адзення і інш. рэчаў. Аднакамерны зруб з падлогай і столлю, блізкі ў плане да квадрата (памеры 4×5, 5×6 м). Першы вянок клалі на дубовыя штандары або камяні вышынёю да 0,7 м. Бярвёны двух першых вянкоў з боку фасада выпускалі да 1 м вонкі, канцы іх злучалі бервяном і засцілалі дошкамі. Такі ганак разам са страхой і некалькімі апорнымі слупамі ўтваралі перадклець (прыклетнік, галерэя, падценне). Тарцовыя сцены рубілі *закотам,* страху накрывалі часцей саломай «пад шчотку», «пад грэбень». Падлогу насцілалі з тонкіх бярвёнаў або плашак і абмазвалі глінай, да якой для трываласці дадавалі каланіцу (адыходы дзёгцю). У сярэдзіне будынка адгароджваліся засекі з бярвён або дошак, часаныя канцы якіх закладалі ў вырубленыя ў сценах пазы. У К. звычайна ставілі ложак, на якім да замаразкаў спалі (звычайна маладажоны). У вял. сем'ях, дзе было некалькі жанатых сыноў, для кожнай маладой пары будавалі асобную К. У ёй захоўваўся пасаг, які быў недатыкальнасцю нявесткі. Даследчык стараж. рус. набудоў М. Чачулін прыйшоў да высновы, што К. папярэднічала хаце. У розных мясцовасцях Беларусі К. мела розныя назвы. У Віцебскай, Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губ. часцей ужывалася назва «К.», радзей «свіран», «свіронак». У некаторых паветах Магілёўскай губ.— «амбар». Традыцыйна К. размяшчалася насупраць надворнай сцяны хаты, каб яе дзверы былі відаць з вокнаў. Часам К. прыбудоўвалі праз сенцы да хаты як *трысцен.* На Беларусі К. была пашырана паўсюдна. Бяднейшыя сяляне замянялі яе *каморай.* Да нашага часу К. захаваліся паўсюдна, але страцілі свае функцыі: звычайна ў іх складваюцца гасп. прылады, паліва. *У. С. Гуркоў.*




Клешчы: 1 — клінковыя; 2 — рычажныя.



Клець. Вёска Белая Смаргонскага раёна.



Рыбакі з **кломляй**. Былая вёска Лучынка Слуцкага павета. Пачатак 20 ст.

**КЛЕШЧЫ**, прыстасаванне для выціскання воску з вашчыны (старых сотаў, іх абрэзкаў, васкавых нарастаў на вуллі і інш.). Называліся таксама скамы, ціскі. Паводле канструкцыі, прынцыпаў дзеяння падзяляліся на рычажныя (накшталт вялікіх драўляных абцугоў) і клінковыя. У рычажных К. прыгатаваную і залітую ў *клінок* вашчыну змяшчалі паміж яго шчок, якія сціскалі рукамі; у клінковых — паміж дзвюма дубовымі дошчачкамі і клінамі, па якіх білі паперамена чакухай (драўляным малатком; адсюль назва працэсу — «біць воск»). У гарадах з 16 ст. існавалі *васкабойні,* у Талачыне васкабойня існавала да 1935 г. У вёсках Усх. Палесся да канца 19 ст. пчаляры «білі воск» на пераносных К.

*С. Ф. Цярохін.*

**КЛЕ́ШЧЫ**, 1) кавальскі інструмент для захоплівання і заціскання жалезных вырабаў пры іх апрацоўцы; тое, што і *абцугі*. 2) Драўляная частка хамута, якая складаецца з дзвюх кляшчын.

**КЛЕ́ЦКІ**, страва з дранай бульбы. Іншыя лакальныя назвы галушкі, кульманы. Гатуюць К. рэдкай стравай. На К. дзяруць бульбу, адціскаюць з яе сок (з якога потым адстойваецца крухмал), часам дадаюць крыху мукі, качаюць рукамі галушкі і кідаюць у малако ці вар (забельваюць малаком). Спажываюць К. таксама без юшкі (сухімі), абліваючы расскваранным салам ці інш. закрасай. Даўней К. варылі з мучнога цеста. Вядомы паўсюдна.

**КЛІНО́К**, трохвугольная торбачка з палатна для выціскання сыру, алею і воску. Для прыгатавання сыру К. шылі пераважна з кужэльнага (у наш час з фабрычнага) палатна. К. з тварожнай масай клалі пад гнёт (часам у спецыяльны прэс). Каб атрымаць воск, дробна раскрышаную вашчыну залівалі вадой, растаплівалі на агні, залівалі ў К. і выціскалі ў кляшчах або ўручную драўлянай качалкай (валком). На Палессі К. пашыраны пад назвай аскавень.

**КЛОК**, рыбалоўная прылада для прываблівання самоў на кручок. Па форме падобны на лыжку, выраблены з дрэва або рога. Рыбалоў адной рукой кіраваў чоўнам, а ў другой трымаў шнур з прынадай на трывалым кручку і К., якім рытмічна біў па вадзе. Гук ад плёскату вады прываблівае самоў на прынаду — мяса жаб або малюскаў. Лоўля самоў пры дапамозе К. была найб. пашыранай на Прыпяці і Дняпры.
*І. М. Браім.*

**КЛО́МЛЯ**, традыцыйная рыбалоўная прылада ў выглядзе трохграннай прызмы, абцягнутай сеткай (апрача адной бакавой грані). Лакальная назва баўтуха. Рабілі яе на драўляным каркасе (была і з прутоў). Рыбу лавілі ўдваіх уброд: тапілі К. ў вадзе, а затым, падцягваючы яе да берага і боўтаючы нагамі, заганялі рыбу ў пастку. Рыбная лоўля К. была пашырана на Палессі, сустракалася на Гродзеншчыне.
*І. М. Браім.*

**«КЛО́СЫ»** («Kłosy», «Каласы»), ілюстраваны навукова-літаратурны часопіс. Выдаваўся на польск. мове ў Варшаве ў 1865—90. Рэдакцыйным камітэтам кіравалі К. Вуйціцкі (да 1875), А. Пяткевіч (А. Плуг, у 1879—90 рэдактар часопіса). Змяшчаў артыкулы па археалогіі, фальклоры, краязнаўству, л-ры, гісторыі, мастацтву, дойлідству, біягр. матэрыялы. Беларусі прысвечаны публікацыі «Танцы люду з-над Віліі» (1864, т 3.) М. Камінскага, «Задняпроўе. Нататкі з падарожжа» (1867, т. 5) Э. Хлапіцкага, «На азёрах» (1869, т. 9) В. Поля, «Экскурсія ў Пінск і на Піншчыну» (1877, т. 24) З. Шчэрага, «Адам Ганоры Кіркор» (1886, т. 43) А. Плуга, «Перажыткі язычніцтва на Палессі» (1890, т. 50) В. Бютнера і інш.
*А. Ф. Літвіновіч.*



Фрагмент **клямкі**. Канец 19 ст. Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў.



Прэс для адціскання сыру ў **клінку**.

**Клок.**



**Клуня.** Брэстчына. Пачатак 20 ст.

**КЛУ́НЯ**, гаспадарчая пабудова для захоўвання і апрацоўкі неабмалочанай збажыны, саломы; тое, што і *гумно*. Назва зафіксавана ў паўд. і паўд.-зах. раёнах Брэсцкай вобласці.

**КЛЮЧЫ́**, жэрдкі, якія мацавалі на вільчыкавы брус для ўтварэння плоскасці *страхі* ў жылых і гаспадарчых пабудовах. З жэрдак (пераважна з елкі) здымалі кару, звычайна абчэсвалі іх з двух бакоў. Спосабы мацавання К. у вільчыку: асобна чаплялі за вільчыкавы брус натуральным адгалінаваннем, коранем або *тэблем*, якім прабівалі К. наскрозь; парамі з двух К., з'яднаных тэблем або спецыяльным злучэннем; доўгімі прутамі, што злучалі ўсе К. страхі. Знізу К. апіраліся на *ачэп*, але не прыбіваліся да яго. У адзіную канструкцыю К. аб'ядноўваліся з дапамогай *лат*, прывязаных лазой ці прыбітых тэблямі, цвікамі. Ад *крокваў* К. адрозніваюцца сваім прызначэннем у канструкцыі будынка: яны перадавалі на сцены толькі цяжар страхі, сілы распору ў зрубе пры выкарыстанні іх не ўзнікалі.
*С. А. Сергачоў.*

**КЛЯ́МКА**, 1) металічнае прыстасаванне, з дапамогай якога адчыняюць і зачыняюць дзверы, вароты, весніцы. На Беларусі вядома з сярэднявечча, у нар. дойлідстве пашырылася ў 19 ст. Уяўляе сабой дужку (ручку) з расплясканымі канцамі, якімі мацуецца да дзвярэй знадворку. Праз верхнюю яе частку і палатно дзвярэй прапушчаны лапаткападобны язычок (слясак). Пры націсканні на слясак пальцам прыпадымаецца рычаг-замок з унутранага боку дзвярэй, на якіх ён рухома замацаваны

адным канцом, другім уваходзіць у кручок, убіты ў вушак дзвярэй. Іншая канструкцыя К. на ПдУ Беларусі (Гомельшчына): масіўны рычаг, прасунуты праз шула ці вушак, з крукамзашчапкай на ўнутраным канцы, які фіксуе наглуха прымацаваную да дзвярэй пласціну. Яна вызваляецца націсканнем далонню па знешні канец рычага, што для зручнасці фігурна расплясканы. Як галоўная дэталь афармлення ўваходу К., як і *завеса*, нярадка мела адмысловую і мастацкую форму. Часцей за ўсё аздабляліся расплясканыя канцы дужкі, асабліва верхні, якому надавалі выгляд ліста, трылісніка, завіткоў і інш.; К. ў выглядзе галовак коней, пеўняў, рагоў барана ў старажытнасці выконвалі функцыю абярэгаў. У наш час К. кавальскай работы сустракаюцца пераважна на варотах; у жыллёвым будаўніцтве састу-



Спосабы мацавання ключоў.




Схема **клямкі** (від збоку) на ПдУ Беларусі: 1 — рычаг; 2 — накладка; 3 — штаба.




Схема **клямкі** (справа — від збоку); 1 — ручка; 2 — слясак; 3 — пастка; 4 — кручок; 5 — скобка.



**Клямка.** Вёска Дразды Стаўбцоўскага раёна. 1920-я г.

пілі месца прамысловым вырабам. 2) Дзвярная зашчапка, што надзяваецца на прабой і прыціскаецца замком або затычкай. *Я. М. Сахута.*

**КЛЯНО́ВІК,** напітак з кляновага соку; спосаб прыгатавання такі, як і *бярозавіка.*

**КЛЯПЦЫ́,** самалоўная пастка ўдарнага дзеяння. Вядома са старажытнасці (згадваецца ў «Маленні» Данііла Заточніка, 12 ст.). Прынцып яе дзеяння заснаваны на ўласцівасці некаторых скручаных вакол сваёй восі матэрыялаў (карэнне, дубцы, вяроўкі, сухажылле) развіваць пры раскручванні значную сілу. К. складаліся з выдзеўбанага накшталт трубы бервяна пэўнай даўжыні, некалькіх столак вяроўкі або шнура (выконвалі ролю спружыны), давюх закрутак, механізму насцярожвання і драўлянага рычага з вострымі дубовымі ці жалезнымі штырамі або нацягнутай на драўляную раму сеткай. Пры нязначным дакрананні да нацягнутай над прынадай або праз сцежку сімкі, рычаг зрываўся са спускавога механізма і забіваў або лавіў звера. К. здабывалі аленяў, коз, рысей, лісіц, зайцоў, розных птушак. Выраблялі́ся К. мясцовымі кавалямі. У канцы 18 — пач. 19 ст. выціснуты з ужытку *залезамі.* *С. Ф. Цярохін.*

**КЛЯШЧО́ТКІ,** самагучальны рытмічны інструмент. Уяўляе сабой набор нанізаных на шнур дошчачак (з сухога цвёрдага дрэва, часцей з дубу), якія пры патрэсванні ўдараюцца адна аб адну і ўтвараюць гучны трэск. Каб дошчачкі прылягалі адна да адной пяшчыльна і гук пры ўдарах быў больш моцны, паміж імі ўстаўляюць круглыя драўляныя пракладкі. На адным канцы (бліжэй да краю) кожнай дошчачкі і пракладкі прасвідроўваюць па 2 адтуліны. Праз іх працягваюць шнур, свабодныя канцы якога завязваюць. Такім чынам атрымліваецца колца, у якое выканаўца ўстаўляе кісці рук. Маніпулюючы імі, на К. можна ўзнаўляць разнастайныя рытмічныя фігуры. Да пач. 20 ст. былі пашыраны на Магілёўшчыне і Міншчыне. Выкарыстоўваюцца ў самадзейных аркестрах нар. музыкі. Вядома і як дзіцячая цацка. *І. Дз. Назіна.*

**КНЭ́БЕЛЬ,** драўляны клін, з дапамогай якога пры звязванні плытоў прымацоўвалі *віцамі* (скручанай лазой) бярвёны да *жэрасцей.* Называўся таксама кніпель.

**КО́БРЫНСКІ СТРО́Й,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Заходнім Палессі. Бытаваў у 19 — пач. 20 ст. пераважна на тэр. Жабінкаўскага і Кобрынскага р-наў. Вызначаўся завершанасцю форм, віртуознай распрацоўкай арнаменту жаночага касцюма. Комплекс летняга жаночага адзення складаўся з кашулі, спадніцы, фартуха. Кашулю шылі з дамотканага льнянога палатна, кроілі з прамымі

плечавымі ўстаўкамі, адкладным або стаячым каўняром, прамым рукавом, тым ткацтвам і маршчэннем тканіны. Дробнаўзорысты (геаметрычны або рас-













**Кобрынскі строй.** Жанчыны ў святочных уборах. Вёска Варатынічы Кобрынскага раёна.

**Клянцы.**

**Кобрынскі строй.** Жанчыны ў святочных касцюмах. Вёска Дзівін Кобрынскага раёна.

**Кляшчоткі.**

**Кобрынскі строй.** Жанчыны ў касцюме з наміткай. Вёска Ясімавічы Кобрынскага раёна.

які заканчваўся фальбонкай або каўнерцам. Аздаблялі кашулю вышыўкай (процягам, крыжыкам), радзей узорыслінны) чырвона-малінавы арнамент з невял. ўкрапінамі чорнага ці цёмна-сіняга збіраўся ў вузкія, аднолькавай шырыні шлячкі (нагадваюць тасёмкі), што ў падоўжным ці папярочным кірунку запаўнялі ўсю паверхню рукавоў. У блізкім да кашулі кампазіц.-арнаментальным вырашэнні афармляўся фартух, пашыты з 2 дэкаратыўна злучаных полак белай ільняной тканіны. Адметнасць К. с. ў спосабе нашэння фартухоў (апраналі 2 фартухі так, каб асноўны арнамент ніжняга фартуха быў відзён з-пад верхняга). Спадніцы шылі з 4 полак узорыстай тканіны: ільняных — з серабрыста-белай, вытканай у тэхніцы шматнітовага ткацтва (у крыжы, акенцы, паскі); ваўняныя (андаракі) — з чырвонай, запоўненай вузенькімі лініямі-прасноўкамі. Радзей выраблялі андарак з чорнай або цёмна-сіняй тканіны з белымі, зялёнымі, сінімі, фіялетавымі прасноўкамі. Падпяразвалі спадніцу поясам з кутасамі, вытканым у разнаколерныя палосы. Зрэдку надзявалі гарсэт. Галаўныя ўборы — намітка, белая палатняная хустка, упрыгожаная «павай» (пяром або веерам з пер'яў), чапец, вянок. Асаблівую велічнасць і пластычную стройнасць касцюму надавала намітка, абматаная вакол твару і жывапісна задрапіраваная на спіне. Шыйнымі ўпрыгожаннямі былі пацеркі, стужкі, абразкі. Мужчынскае адзенне складалася з кашулі навыпуск, падпяразанай поясам, белых палатняных нагавіц, галаўнога ўбору — саламянага картуза, аздобленага ўзорыстай тасёмкай па верху і маляўнічай какардай, шапкі (круглай, чубатай). Верхняе адзенне мужчын і жанчын: світа (латушка, з вусам), пашытая з белага або шэрага валенага сукна і аздобленая на грудзях і бакавых клінах стракатымі пышнымі кутасамі і вышыўкай маліна-

мясцовасцях называліся стаякі, крыжы. К. паступова выцяснілі з будаўніцтва *сошкі*. Ствараліся перакрыжаванымі брусамі, што апіраліся на бэлькі і папярочныя сцены. У перакрыжаванне, створанае ў верхняй частцы брусоў, клалі вільчыкавы брус, на ім мацавалі *ключы*. Страха на К. у канцы 19— пач. 20 ст. была найб. пашырана на Паазер'і, Падняпроўі і ў Цэнтр. Беларусі. У наш час у будаўніцтве не выкарыстоўваецца. 2) Канструкцыя для замацавання саламянага пакрыцця ў вільчыку страхі. Называлася таксама козлікі. Кароткія жэрдкі збівалі крыж-накрыж парамі і клалі ўпоперак па ўсяму вільчыку, латой прывязвалі да *лат*. Часам К. аб'ядноўвалі доўгімі жэрдкамі. Верхнія канцы К. завастралі або ачэсвалі такім чынам, каб яны набылі падабенства да стылізаваных галоў жывёл (найчасцей коней, птушак). Такія К. ўпрыгожвалі будынак, узбагачалі яго сілуэт. 3) Прыстасаванне для распілоўкі дроў. Складаецца з 2 пар з'яднаных крыж-накрыж брусоў, злучаных гарызантальнай жэрдкай. У перакрыжаванне клалі дровы для распілоўкі. Часам такія К. рабілі стацыянарнымі, укапанымі ў зямлю на двары сядзібы. 4) Сядзенне для фурмана ў перадку экіпажа.
*С. А. Сергачоў.*









**Коварат.** Вёска Міластава Бярэзінскага раёна.

Канструкцыя страхі на **козлах.**

**Козлы.**

**Козлы** на страсе. Вёска Руховічы Кобрынскага раёна.

вымі, блакітнымі ніткамі воўны; куртка, кажух. *М. Ф. Раманюк.*

**КО́ВАРАТ**, вароты, якімі перагароджвалі вуліцу на канцах вёскі. Называліся таксама вешніцы. Да К. з абодвух бакоў падыходзіў плот, што дазваляла надзейна перагароджваць вуліцу і спрыяла парадку на ёй, ахове вёскі ноччу, прадухіляла ўцёкі свойскай жывёлы. Вядомы два тыпы К. Аснова першага — слуп па цэнтры вуліцы, на які навешваліся вароты. У канструкцыі другога тыпу — два высокія слупы, укапаныя ў зямлю па баках вуліцы і аб'яднаныя ўверсе брусам. У цэнтры бруса вертыкальна мацавалася жэрдка, на якой паварочваліся вароты. Сустракаўся пераважна на Палессі. *С. А. Сергачоў.*

**КО́ЗЛЫ**, 1) апорны элемент аднаго з тыпаў каркаснай страхі. У некаторых мясцовасцях называліся стаякі, крыжы. ...

**КО́ЛА**, *сіло* для лоўлі курапатак. Уяўляла сабой ляшчынавы абруч (дыяметрам 1—1,5 м), зацягнуты сеткай з тонкага моцнага шнура, да якой прывязвалі некалькі дзесяткаў петляў з конскага воласу. Лавілі К. пераважна зімой, калі мароз і бяскорміца «гналі» курапатак да чалавечага жытла. К. клалі на прытоптаны снег на загуменні ці ў садзе ля кустоў, прысыпалі для маскіроўкі і прываблівання птушак сенам і мякінай. Разграбаючы пацяруху, курапаткі самі сабе зашморгвалі петлі на лапках.
*С. Ф. Цярохін.*

**«КО́ЛА»**, традыцыйны танец. Называўся таксама «Кружкі», «Кругавая», «Крутok». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Галоўная асаблівасць яго — рух па крузе і ўсялякія кружэнні. Пад



Колесня.



«Кола». Сцэнічны варыянт танца выконвае фальклорны калектыў «Унукі» Мінскага інстытута культуры.

рознымі назвамі пашыраны па ўсёй Беларусі. Р. Друцкі-Падбярэскі апісаў «Кругавую» наступным чынам: «...танцор жвава абнімае постаць маладой танцоўшчыцы, паварочвае і пеpакідвае не ў такт дуды і скрыпкі, прыстукваючы кожны такт абцасамі і падпяваючы двухрадкоўе. Танцуючых цэлы рад. Першы ў радзе выдумляе фігуры, якія дакладна паўтараюцца ўсімі; кружацца ў адзін бок датуль, пакуль амаль што не ап'янеюць, тады кружацца ў другі...» (Беларускае вяселле // Иллюстрация. 1848. Т. 6, № 1. С. 7). Пра «Кружкі» як пра галоўны танец на бел. світочных вечарынках паведамляў М. Дзмітрыеў: ад васьмі да шаснаццаці выканаўцаў кружацца ў ім парамі пад музыку і спевы розных кароценькіх прыпевак (Дмитриев М. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869. С. 256). «Круціху», што выконвалася на вяселлях, нагадвае С. Сахараў. «Круган», што выконваўся двума мужчынамі, зафіксаваны на Брэстчыне, «Круглы» — на Магілёўшчыне. *Ю. М. Чурко.*

**КÓЛЕСНЯ,** прыстасаванне для вырабу драўляных колаў; неабходная прылада стальмашнай майстэрні. Называлася таксама *калесня.* Уяўляла сабой масіўны ўслон з акруглай адтулінай пасярэдзіне, падоўжанай з аднаго боку скразной шчылінай. Форма адтуліны і прыстасаваны вертыкальна рычаг-клямар давалі магчымасць заціскаць у калодку кола, нацягваць вобад на спіцы, забіваць утулку, буксу і інш.

**КÓЛЬБЕРГ** (Kolberg) Оскар (22.2. 1814; в. Пшысуша Келецкага ваяв., ПНР — 3.6.1890), польскі этнограф, фальклорыст і кампазітар. Акад. Акадэміі ведаў у Кракаве (1875; чл.-кар. 1873). Збіраў фальклорна-этнагр. матэрыялы ў Польшчы, на Беларусі, Украіне, Літве і Венгрыі. У 1889 у штогодніку «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Збор звестак па айчыннай антрапалогіі») змясціў першыя публікацыі па Беларусі — «Вясельныя звычаі і абрады з Палесся» і «Казкі з Палесся», у якіх апісаны важнейшыя этапы бел. вяселля (заручыны, вечар у маладога, снеданне, абед, выезд, пярэзвы і інш.), абрадавая ежа і змешчана каля 30 фальклорных твораў (пераважна вясельныя песні). Выдаў зб. «Песні польскага народа» (1842). Аўтар манументальнай працы «Народ. Яго звычаі, лад жыцця, мова, паданні, прыказкі, абрады, забабоны, забавы, песні, музыка і танцы» (1857—90). У 1961—86 выйшла 67 т. «Поўнага збору прац» К. Бел. матэрыялы ў т. 52— «Беларусь — Палессе» (1968); раздзелы: край (апісанні розных мясцовасцей), народ (характарыстыка насельніцтва розных рэгіёнаў, матэрыяльная культура і заняткі), звычаі (пераважна каляндарныя абрады і фальклор), абрады (16 апісанняў вяселля, вясельныя песні, 4 апісанні пахавання), пазаабрадавыя і інш. песні, вераванні, забабоны, апавядальныя жанры (казкі, байкі, 14 апавяданняў, 33 прыказкі і прымаўкі), гульні і забавы, мова (беларусаў, украінцаў, палякаў з фальклорнымі прыкладамі). Усяго ў томе змешчаны 723 песні. Бел. матэрыял таксама ў т. 53— «Літва» (1966). У сваёй рабоце выкарыстаў і спрабаваў абагуліць працы бел. і польск. даследчыкаў, у якіх аб'ектыўна характарызуецца побыт і культура беларусаў (Я. Т. Чачот, Р. С. Зянькевіч, П. В. Бабдроўскі, М. В. Доўнар-Запольскі, П. М. Шпілеўскі, Ю. Ф. Крачкоўскі, Я. Баршчэўскі, У. Сыракомля, З. Я. Даленга-Хадакоўскі, Э. Ажэшка, І. І. Шыдлоўскі і інш.), а таксама працы, напісаныя з шавіністычных пазіцый (Л. І. Галамбёўскі, М. А. Камінскі і інш.). Аўтар «Этнаграфічных карцін» (1882—91; пры жыцці выдадзены 11 т.); муз. твораў: оперы «Ка-




Кола: 1 — агульны выгляд; 2 — валасяная пятля.





Коўш.

Комін.

роль пастухоў», танцаў, рамансаў і апрацовак нар. песень. *В. К. Бандарчык.*

**КО́МІН,** дымаход у печы. К. называўся таксама ганчарны выраб, які выкарыстоўвалі ў верхняй частцы дымахода (у паўд.-зах. раёнах яго называлі ладыш). Уяўляў сабою высокі цыліндр дыяметрам 25—30 см, даўжынёй 80—100 см. Да абпальвання ў горне яго манціравалі з двух нарыхтовак даўжынёю 40—50 см кожная. У наш час для гэтага выкарыстоўваюцца бляшаныя і азбацэментавыя трубы. *С. А. Мілючэнкаў.*

**КО́НАЎКА** (ад ням. Kanne польск. konew збан, кружка), невялікая драўляная (з клёпак ці выдзеўбаная), радзей металічная або ганчарная пасудзіна з ручкай. Звычайна мела конусападобную форму. У паўсядзённым побыце служыла для зачэрпвання і пералівання вадкасцей. Падвешвалася на край або ставілася побач цэбра (*вадзянкі*) з вадою, бочкі з квасам. Выкарыстоўвалася таксама як кубак для піцця, у гэтым выпадку мела больш падоўжаную форму, звычайна цыліндрычную. *В. С. Цітоў.*

**КО́ПНЫ СУД,** суд сельскай, часам гарадской *абшчыны* на Беларусі. Узнік на ранняй стадыі развіцця дзяржавы і права. Збіраўся на вызначаным месцы — капавішчы (адсюль і назва), дзе насыпалася ўзвышэнне, трамбавалася зямля, рабіліся лавы. Дзейнічаў на аснове *звычаёвага права*, аб'ядноўваў следчыя і судовыя функцыі. Разглядаў пераважна справы простых людзей, зрэдку феадалаў (пра забойствы, крадзяжы, грабяжы, падпалы, патравы, зямельныя спрэчкі і інш.). Усе ўдзельнікі судаводства фармальна карысталіся роўнымі правамі. К. с. праводзілі выбраныя насельніцтвам т. зв. копныя мужы, копнікі. Імі маглі быць сяляне, якія мелі добрую рэпутацыю, прадстаўнікі сялянскай адміністрацыі, звычайна пажылыя людзі (часам і адміністрацыі мяшчан, шляхты, зямян). Колькасць суддзяў не стабільная, найчасцей збіралася 10—20. На капе прысутнічаў прадстаўнік гродскага, або замкавага, суда (віж, возны), які сачыў за захаваннем копных звычаяў і копнага права, складаў справаздачу пра ход судовага працэсу. К. с. прыгаворваў да штрафу, пакрыцця страт, цялеснага пакарання, умоўнага асуджэння, *выгнання* і нават пакарання смерцю. «Гарачая капа» склікалася адразу пасля ўчынення злачынства, пэўнага месца збору не мела. Злоўленага злачынцу судзілі адразу; калі ён не быў знойдзены, збіралася звычайная капа, на якой дапытвалі ўсіх, хто з'явіўся. Калі і на ёй злачынец не быў выкрыты, збіралася 3-я канчатковая (завітая, прысяжная) капа, на якую абавязаны былі з'явіцца ўсе копнікі і выкліканыя людзі. Яны прыносілі прысягу, што не рабілі злачынства і нічога не ведаюць пра злачынца. Той, хто не з'яўляўся на капу, абавязаны быў пакрыць прычыненыя злачынствам страты і шукаць віноўніка. Скаргі на рашэнні К. с. не падаваліся. Дзейнасць К. с. на Беларусі спынілася ў 18 ст. *І. А. Юхо.*

**КО́ПЫСКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы 16—20 ст. з г. п. Копысь (Аршанскі р-н). У 16—18 ст. выраблялі гаспадарчы посуд, кафлю. У 15—17 ст. была пашырана тэракотавая і паліваная (зялёнага колеру) кафля з рэльефным раслінным, геаметрычным і геральдычным дэкорам. У 2-й пал. 17 ст. выхадцы з Копысі Я. Андрэеў, С. Аляксееў, П. Будкееў, П. Фёдараў аздаблялі паліхромнай кафляй будынкі Масквы і яе ваколіц. Асаблівага развіцця К. к. дасягнула ў 19—1-й пал. 20 ст. У Копысі працавала каля 20 ганчарных заводаў, дзе выраблялі кафлю, а таксама белагліняны паліваны посуд (збанкі, гаршкі, слоікі, міскі і інш.) мяккіх акруглых форм. Вырабы аздаблялі прамымі і хвалістымі ціснёнымі паяскамі на плечыках пасудзін, налепамі, зашчыпамі па краях, падцёкамі карычневай або зялёнай палівы. Выраблялі таксама талеркі, вазы, кубкі, хлебніцы, чарніліцы, шкатулкі, пісьмовыя прылады, попельніцы з фігурамі львоў, мядзведзяў і інш., якія ўпрыгожвалі рэльефным раслінным і анімалістычным дэкорам, пажадальнымі надпісамі, пакрывалі разнаколернай палівай. Кафлю аздаблялі рэльефным паліхромным дэкорам расліннага характару, вырашаным у стылі мадэрн. У 1920—30-я г. была пашырана вытворчасць дробнай пластыкі сюжэтна-тэматычнага характару. У наш час гладкую і арнаментаваную кафлю вырабляе копыскі цэх Аршанскага камбіната сілікатных вырабаў. Калекцыя К. к. зберагаецца ў Дзярж. музеі БССР. *Я. М. Сахута.*



Лубяная і медная **конаўкі.** Канец 19—пачатак 20 ст.



Кораб з лубу.

**КО́РАБ,** ёмістасць для захоўвання і пераноскі сыпучых прадуктаў (збожжа, мукі, круп, гароху і інш.), сплеценая з лубу, саломы, лазы. Лакальныя назвы шынн, карабан, саламянік. Вышыня 40—110, дыяметр 35—70 см. Круглыя ці авальныя К. пераважна мелі канфігурацыю збанка, бочкі, гаршка,

часта іх рабілі з вечкам; падстаўкай служылі адно ці два саламяныя звёны або лазовы прут. Мелі добрую вентыляцыю, таму ў іх нядрэнна захоўваліся прадукты. К. вылучаюцца разнастайнасцю форм, прыроднай прыгажосцю матэрыялу. Пашыраны былі на большай частцы Беларусі. *А. Ф. Літвіновіч.*

**КОРЖ**, праснак, даўняе прэснае мучное печыва. Называлі таксама каржэнь, каржан. На К. звычайна бралі жытнюю муку, крута замешвалі на вадзе або сыроватцы, дадавалі соль, соду. Пяклі на чарэні або на патэльні тоўстым блінам. Рабілі К. «праснаком на скорым часе», як не было хлеба, ці ў пост, на памінкі. К. таксама елі, пакрышыўшы яго на кавалкі і заліўшы смятанай або тоўчанымі ягадамі. Часам на К. бралі пшанічныя высеўкі, тоўчанае канаплянае ці льняное семя (Столінскі, Лельчыцкі, Рагачоўскі р-ны). Калі не хапала мукі, дадавалі тоўчаную вараную бульбу. У наш час К.— печыва з пшанічнай мукі на малацэ, здобнае, салодкае. *Г. Ф. Вештарт.*

дабаўлялі духмяныя прыправы, шчыльна складвалі ў страўнік і зашывалі. Вешалі пад страхой у торбе ці ў кашы (каблуку). На З Беларусі К. да вясны трымалі ў расоле, потым высушвалі на сонцы. Правяленае мяса захоўвалася да лета, яго бралі на сенакос, жніво, копку бульбы. Свіны страўнік маглі начыняць варанымі пасечанымі вантробамі, кашай са скваркамі, дранай бульбай. Быў вядомы паўсюдна, у некаторых мясцовасцях робяць і ў наш час. *Г. Ф. Вештарт.*

**КОЎШ**, драўляная выдзеўбаная пасудзіна для перасыпання збожжа, мукі. К. называюць таксама чарпаком. Мае доўгую або кароткую ручку. Авальны ў плане, вышыня 10—13 см, даўжыня з ручкай 30—50, шырыня 18—22 см. Доўгая ручка заканчваецца закручаным уніз канцом для падвешвання, кароткая мае ўнізе скразную адтуліну для пальцаў. Выраблялі К. з цвёрдых і менш цвёрдых парод дрэва. Шэраг К.— выдатныя ўзоры работы мясцовых майстроў. Для іх характэрны пластычнасць, выразнасць форм, прыгожы малюнак слаёў драўніны. Пашыраны ў многіх раёнах. *А. Ф. Літвіновіч.*


Каўшы.


Кашы з яблыкамі.




Кораб.
Кашы.

**КО́СІЧ** Марыя Мікалаеўна (1850, с. Расуха Унечскага р-на Бранскай вобл.— ?), беларуская фалькларыстка, этнограф і пісьменніца. Адукацыю атрымала ў Пецярбургу. У 1901 у час. «Живая старина» апублікавала працу «Ліцвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх побыт і песні», прысвечаную вуснай нар. паэзіі і духоўнай культуры беларусаў (апісанне абрадаў і звычаяў даецца па месяцах і порах года). У прадмове да зборніка характарызуецца жыццё і побыт сялян-беларусаў, іх вераванні, паданні, песні, асаблівасці гаворкі і спеваў. Пісала пра матэрыяльную культуру беларусаў (арт. «Аб пабудовах беларускага селяніна Чарнігаўскай губерні...», 1906). Аўтар паэмы «На перасяленне. Расказ цёткі Домны з Палесся» (1903). *Г. А. Пятроўская.*

**КО́ЎБІК**, свіны страўнік, начынены мясам. У некаторых мясцовасцях пашыраны назвы кіндзюк, каўдун, кірук, багук. Страўнік вычышчалі, разміналі; мяса з ашыйка, лапатак, сцёгнаў, часам кавалкі сала (Брэстчына) рэзалі, салілі,

**КОШ**, 1) плеценая ёмістасць розных памераў для захоўвання і транспарціроўкі сыпкіх і штучных рэчываў, пераважна харчовых прадуктаў. К. рознай формы рабілі з лазы, сасновай, радзей дубовай дранкі, каранёў хваёвых дрэў, ліпавай і бярозавай кары, саломы, рагозу. Паводле функцыянальных асаблівасцей К. можна ўмоўна падзяліць на посуд для патрэб паўсядзённага ўжытку, для захоўвання мясных прадуктаў *(саж)*, ёмістасці пад збожжа (*кораб*, шыян, саламянік), посуд для пераносу грузаў на плячах (кашэль, *вярэнька*) і на К. і палукашы (палукашкі) на воз. У першай групе найб. пашыраны былі К. паўкруглай формы, плеценыя з лазовых прутоў (гл. ў арт. *Пляценне*). К. выкарыстоўвалі для збірання і пераносу гароднiны, бульбы, садавіны, грыбоў, пры рабоце ў полі і інш. На Пн Беларусі з той жа мэтай выкарыстоўвалі К. з плоскім дном, плеценыя з сасновай дранкі шырынёй 3—7 см, таўшчынёй 2—5 мм. Больш зграбна і мудрагеліста плялі лазовыя К., што мелі форму ўсечанай піраміды ці конуса. Іх дэкор часцей за ўсё ўтваралі рытмічныя спалучэнні розных матэрыялаў, акораных і неакораных прутоў (белае і шэрае пляценне), заплеценых рознымі спосабамі. Такія К. звычайна выкарыстоўвалі для дастаўкі ежы ў поле, святочных наведванняў, кірмашовых свят, збірання ягад, лекавых траў і інш. К. другой групы ў большасці мелі такую ж паўкруглую (паўшаравідную) форму, што і звычайны копык, аднак закрываліся зверху паўкруглымі дзверцамі. Сустракаліся К. конусападобныя, звужаныя knізу, у якіх захоўвалі салапіну. Звычайна іх абгортвалі палатном, абрусам і падвешвалі да бэлькі ў каморы ці на гарышчы (Зах. і Цэнтр. Беларусь). На Палессі саж нярэдка выкарыстоўвалі для захоўвання жывой рыбы. Ёмістасці пад збожжа, крупы, муку рабілі звычайна з пучкоў саломы, укладваючы іх адзін на адзін па спіралі і пераплятаючы лазою ці мачалам. Іх часта выкарыстоўвалі замест *кадаўбаў*. Збожжа ў іх добра вентылявалася. К.-





«Кракавяк» у тройках. Выконвае фальклорны калектыў з вёскі Бярозкі Брагінскага раёна.

Крамлёнае дрэва з дзвюма борцямі — блізняк.

саламянікі формай часцей нагадвалі ганчарны посуд: збаны, гаршкі, макітры, місы і інш. Аб'ём вагаўся ад некалькіх літраў да 1 м$^3$. К. для пераносу грузу на плячах рабілі з лазы, дранкі; яны мелі падоўжаную ці цыліндрычную форму (для зручнасці ўладкавання іх на спіне) і адпаведныя ручкі. Нярэдка К. з грузам падвязвалі за спінай кавалкам палатна ці абрусам. Найбольшыя памеры мелі К. вазовыя (сярэдні памер 2×1×0,7 м), прызначаныя для транспарціроўкі бульбы, гародніны і інш. Іх плялі з тоўстых гнуткіх дубцоў у стылі перакрыжаванай (крыжовай) тэхнікі; мелі форму расшыранай кверху скрыні з акруглымі тарцовымі бакамі. Для перавозкі сыпкіх і невялікіх штучных грузаў часта выкарыстоўвалі заплеценыя з трох бакоў палукашы, якія ставілі на воз пры адсутнасці шчыльнага кузава. У наш час у гаспадарчай практыцы шырока ўжываюцца К. пад бульбу, гародніну, садавіну (часта плеценыя з тонкага дроту); іншыя тыпы плеценых ёмістасцей амаль выйшлі з ужытку.

2) Скрынка ў млыне над жорнамі, у якую засыпаюць збожжа для памолу.
*В. С. Цітоў.*

**КРАВЕ́ЦТВА**, рамяство па пашыву верхняга адзення з палатна, сукна, футра (пераважна аўчын). Вядома з даўніх часоў. У 16 ст. ў буйных гарадах узніклі кравецкія цэхі (у 1634 Магілёўскі цэх атрымаў нават каралеўскую прывілею). У маёнтках працавалі прыгонныя рамеснікі-краўцы, якія абшывалі памешчыкаў і дворню (у 19 ст. памешчыкі нярэдка пасылалі прыгонных у буйныя рамесніцкія цэнтры вучыцца кравецкай справе).

У 2-й пал. 19 ст. К. на Беларусі было пашырана ў форме адыходніцтва. Краўцы-саматужнікі (звычайна сяляне) у свабодны ад земляробчай працы час (з восені да вясны) хадзілі па вёсках у межах сваёй воласці або павета і працавалі ў хаце заказчыка. Шылі суконныя світы, палатняныя насовы, аўчынныя кажухі і паўкажушкі. У мястэчках і гарадах краўцы стала займаліся К. і шылі на заказ. Часам яны наймалі работнікаў або вучняў. Заказ на пашыў адзення афармляўся з дапамогай спецыяльных драўляных бірак з насечкамі, якія абазначалі колькасць аўчын і знак краўца. З развіццём фабрычнага пашыву адзення К. амаль знікла (у наш час рамеснікі шыюць толькі кажухі).
*Н. І. Буракоўская.*

**«КРАКАВЯ́К»** (польск. krakowiak), польскі традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Узнік у Кракаўскім ваяводстве. У 19— пач. 20 ст. на яго аснове быў створаны бальны танец, які стаў папулярным у многіх краінах Еўропы. На Беларусі пашыраны як нар. танец. Танцуюць «К.» парамі весела, тэмпераментна, з ганарлівым выглядам. Спачатку ў танцы па-дэ-баскі спалучаліся з галубцамі і вярчэннямі, але паступова рухі спрашчаліся і галубцы былі заменены простымі крокамі. Блокі з гэтых рухаў паўтараюцца шмат разоў запар. У некаторых мясцовасцях пашыраны і ў наш час. *Ю. М. Чурко.*

**КРАМЛЁНАЕ ДРЭВА**, бортнае дрэва, звычайна хвоя, са зрэзанай вершалінай, якую ссякалі (здымалі шчык) для паскарэння росту дрэва ў таўшчыню. Месца зрэзу абмазвалі глінай або прыкрывалі каменем ці драўлянай плашкай. З цягам часу К. д. таўсцела, набывала ўстойлівасць супраць моцных вятроў, якія часта ламалі звычайныя бортныя дрэвы, асабліва тыя, у якіх выдзёўбвалі дзве (блізняк) і болей *борцей*.



Крамянецкае свяцілішча.

**КРАМЯНЕ́ЦКАЕ СВЯЦІ́ЛІШЧА**, этнаграфічны аб'ект каля в. Крамянец Лагойскага раёна; верагодна,— помнік язычніцкага культу. Знаходзіцца за 0,6 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, дзе ляжыць Дажбогаў (Святы) камень (даўжыня 1,03 м, шырыня да 0,7 м, вышыня 0,6 м), на амаль што плоскай паверхні якога 3 авальныя (даўжыня ад 0,2 да 0,36 м) і 2 круглыя талеркападобныя (дыяметр каля 0,2—0,22 м) адпаліраваныя паглыбленні. На камень









**Краснапольскі строй.** Аздабленне рукава жаночай кашулі. Вышыўка. Вёска Рудня-Барталамееўская Чачэрскага раёна. Канец 19 ст.; вёска Беразякі Краснапольскага раёна. Пачатак 20 ст.

**Краснапольскі строй.** Жанчыны ў летнім адзенні. Пачатак 20 ст. Вёска Рудня-Барталамееўская Чачэрскага раёна.

**Краснапольскі строй.** Жанчына ў святочным касцюме. Вёска Залессе Чачэрскага раёна. Пачатак 20 ст.

прыносілі ахвяраванні (у асноўным манеты або кветкі), што паводле павер'яў дапамагала пры розных няшчасцях. Існаваў таксама звычай выклікання дажджу. Дзеля гэтага некалькі ўдоў павінны былі павярнуць або прыпаднянь камень. Падобныя камяні, асабліва з талеркападобнымі паглыбленнямі, вядомы таксама ў Віцебскай і Гродзенскай абл., на Пд Літвы (на Гродзеншчыне захавалася літоўская назва такіх камянёў — «дзево блюдас» — «блюда бога»).

Помнік адкрыты ў 1985 Э. А. Ляўковым. У 1976 Э. М. Зайкоўскім вакол Дажбогава каменя праведзены археал. раскопкі; ускрыта плошча 19 м$^2$. Магутнасць культурнага пласта ад 0,1 да 0,4 м; у ім знойдзены крэмені без апрацоўкі, невыразныя рэшткі жалезных вырабаў, дарэвалюцыйныя (канец 19— пач. 20 ст.) і сучасныя манеты. У выніку раскопак выяўлена, што Дажбогаў камень знаходзіцца пасярод выбрукаванай меншымі камянямі прамавугольнай пляцоўкі памерамі 2,8×3 м, арыентаванай строга па баках свету, што характэрна для такіх язычніцкіх свяцілішчаў, як Ходасавіцкае (Рагачоўскі р-н), Кіеўскае і каля г. Гарадка на Падоллі (Украіна), якія існавалі з 6—7 да пач. 11 ст. Яны маглі выконваць функцыі культава-астранамічных пляцовак. *Дажбог* у старажытных славян быў богам сонца, святла і цяпла і забяспечваў дабрабыт. На думку Б. А. Рыбакова, свiткаванне ў яго гонар прыпадала на зімовае сонцастаянне, што яшчэ раз сведчыць пра сувязь Дажбога з астранамічнымі з'явамі, гадавым рухам Сонца і робіць зразумелай строгую арыентацыю выбрукаванай пляцоўкі вакол Дажбогава каменя па баках свету. З захаду да пляцоўкі прымыкае невялікі выступ трапецападобнай формы, таксама складзены з камянёў. Паводле некаторых звестак, раней недалёка ад каменя размяшчаўся калодзеж, ваду з якога лічылі святой.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**КРАПА́НІК**, назва пірага ці піражка з крапанкай — начынкай з тварагу, падсмажаных грыбоў, капусты, мяса, рыбы, цыбулі. Пашыраны на Пн Беларусі.

**КРАСА́ЛА**, металічная прылада для высякання агню з крэменю; тое, што і *крэсіва.*

**КРАСНАПО́ЛЬСКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Падняпроўя. Бытаваў у 19—сярэдзіне 20 ст. пераважна ў Краснапольскім, Касцюковіцкім, Клімавіцкім, Хоцімскім, Чачэрскім, Чэрыкаўскім р-нах. У ім найб. яскрава адбіўся працэс узаемаўзбагачэння і ўзаемапранікнення рус., бел. і ўкр. нар. адзення. Для К. с. характэрна вял. разнастайнасць форм адзення, багатае кампазіц. варыянтамі і арнаментальнымі матывамі маст. афармленне, у якім важнае значэнне, акрамя вышыўкі і ўзорыстага ткацтва, мела карункапляценне, аплікацыя. У жаночым гарнітуры пашыраны 4 комплексы: кашуля, расхінная панёва, гарсэт, намітка; кашуля, андарак з дзесяткай (спадніца з прышытым ліфам-гарсэтам у асобных варыянтах нагадвала сарафан на лямках), 1-полкавы суконны фартух, хустка; кашуля, андарак, 4-полкавы льняны фартух, хустка; кашуля або блуза, кроеная з гесткай, крамная спадніца з прышыўным ліфам, 1-полкавы фартух, хустка. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па ўтку, з вял. адкладным каўняром, аздобленым па краях паскам вязаных белых карункаў або паркалёвых бры-

жоў. Шырокі рукаў злучаўся з плечавой устаўкай узорыстым паскам мярэжкі з чырвона-чорным геам. арнаментам (кашейкі). Вышыты чырвонымі, чырвона-чорнымі бавоўнянымі ніткамі арнамент 8-пялёсткавых разетак, ромбаў, квадратаў кампанаваўся радамі, у шахматным парадку або размяшчаўся ў ячэйках-сотах, якія ўтвараліся перасячэннем дыяганальных або гарызантальных і вертыкальных палос. Густа нашыты на рукавы ўзор вылучаецца багаццем арнаментальных варыяцый, тонкасцю ўзораў, гармоніяй і агульнай пластыкай і аздабленнем інш. частак касцюма. Фартухі аздаблялі ўзорыстым ткацтвам, вышыўкай, аплікацыяй; папёву, андарак натыкалі клятчастым вохрыста-чырвоным арнаментам. Андарак і ліф-гарсэт часам кроілі з розных тканін: ніз з клятчастай даматканкі, ліф — з крамнай узорыстай і гладкафарбаванай тканіны. Спадніцу шылі з ільнянога аднатоннага, клятчастага, паласатага, белага, бела-сіняга палатна. Падпяразвалі вузкім поясам, канцы якога аздаблялі дэкар. кутасамі, нізкамі разнаколернага бісеру. Галаўным уборы жанчын — намітка, чапец (вязаны з белых нітак або шыты з чырвоных крамных тканін), хустка. Насілі пацеркі, шыйныя бісерныя паскі, абразкі. Мужчынскія кашулі кроілі з плечавымі ўстаўкамі (палікамі) або тунікападобныя; у іх вышывалі манішку, падол, каўнер і каўнерцы, падпяразвалі поясам. Нагавіцы шылі з палатна, шэрага ці карычневага сукна. Вопратку (світу, шубу, кажух, куртку, сак) аздаблялі нашыўкамі і аблямоўкамі фабрычных (чырвоных, сініх) тканін, аплікацыяй шнуром. *М. Ф. Раманюк.*

**КРАЧКО́ЎСКІ** Юльян Фаміч (25.7.1840, в. Азяты Жабінкаўскага р-на — 25.7.1903), беларускі этнограф, фальклорыст, археограф. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1861). Адмовіўся ад духоўнага сану і каля 30 гадоў займаўся пед. дзейнасцю: выкладчык рус. мовы Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, інспектар нар. вучылішч Тульскай губ. і Віленскай навуч. акругі, дырэктар Полацкай настаўніцкай семінарыі і Віленскага настаўніцкага ін-та, Туркестанскай настаўніцкай семінарыі. У 1888—1902 старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі. У 1868 у газ. «Виленский вестник» змясціў этнагр. арт. «Весельныя абрады заходнярускіх сялян». У працы «Нарысы быту заходнярускага селяніна» (1869) апісаў жыццё дзяцей бел. сялян, іх гульні і нялёгкую працу, да якой дзеці прывучаюцца з маленства. У зб. «Быт заходнярускага селяніна» (1873) апісаў бел. вяселле, даў характарыстыку абрадаў каляндарна-гадавога цыкла. У ім змешчана больш за 200 песень, 90 прыказак, некалькі нар. паданняў і казак; ёсць звесткі пра нар. медыцыну, нар. стравы і нар. каляндар беларусаў, пра пахавальныя абрады. У працы выкарыстаны шматлікія крыніцы па бел. этнаграфіі. К. складальнік 16-га і 20-га т., аўтар прадмовы да іх і 25-га т. *Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі.* У 1900—02 пад яго рэдакцыяй і з яго прадмовамі выйшлі 12-ы і 13-ы т. *Археаграфічнага зборніка дакументаў.*

*Тв.*: Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования. 1803—1832. Отд. 1. Вильна, 1903. *В. К. Бандарчык.*

**КРАШЭ́ЎСКІ** (Kraszewski) Юзаф Ігнацы (псеўд. Б. Балеславіта, Др. Амега, К. Пастарнак і інш.; 28.7.1812, Варшава — 19.3.1887), польскі пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку. Акадэмік Акадэміі ведаў у Кракаве (1872). Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, Віленскім ун-це. У дзяцінстве жыў у в. Доўгае каля Пружан, з 1834 у Доўгім і на Валыні. У 1830—32 у турме за ўдзел у антыцарскай змове. У 1841—51 рэдагаваў віленскі час. «Athenaeum» («Атэнэум»), з 1860 у Варшаве, рэдактар газ. «Gazeta Polska» («Польская газета»). Напісаў паэт. трылогію з гісторыі Літвы «Анафелас» (1840—45). Цяжкае жыццё бел. і ўкр. прыгоннага сялянства паказаў у творах «Гісторыя Саўкі» (1842), «Уляна» (1843), «Астап Бандарчук» (1847), «Хата за вёскай» (1853—54), «Ярмола» (1856), «Гісторыя калка ў плоце» (1859), «На Палессі» (1883). Мінуламу Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны прысвяціў раманы «Апошнія з слуцкіх князёў» (1841), «Зыгмунтоўскія часы» (1846), «Залаты яблык» (1853), «Графіня Косель» (1873), «Бруль» (1874), «Старая казка» (1876) і інш. Аўтар навук. прац «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847—50), «Барысаў» (1848) і інш. Падарожжы па Беларусі апісаў у нарысах «Пінск і Піншчына» (1837), «Успаміны Валыні, Палесся і Літвы» (1840), «Малюнкі з жыцця і падарожжаў» (1842), «Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан» (1859—60). Маляваў тыпы бел. сялян, вясковыя пабудовы, пейзажы. *А. І. Мальдзіс.*

**КРАЯЗНА́ЎСТВА**, усебаковае вывучэнне пэўнай тэрыторыі, горада, вёскі ці іншага населенага пункта пераважна мясцовым насельніцтвам. Даследуе прыроду, гаспадарку, побыт, гісторыю, культуру; бывае комплекснае, калі вывучаюцца ўсе з'явы ў іх узаемасувязі, і галіновае — гістарычнае, этнаграфічнае, літаратурнае, геаграфічнае, прыродазнаўчае і інш. Развіваецца К., звязанае з аховай помнікаў гісторыі і культуры. Асн. метады К.— збіранне дакументаў, рэчаў матэрыяльнай культуры, узораў карысных выкапняў, адшуканне помнікаў і інш. Мае вял. грамадска-паліт., культурна-асветнае і патрыятычна-выхаваўчае значэнне. Функцыі навук.-метадычных цэнтраў К. выконваюць музеі адпаведных профіляў, у т. л. *краязнаўчыя музеі, этнаграфічныя музеі.*

Духоўную і матэрыяльную культуру асобных рэгіёнаў Беларусі вывучалі Я. Ласіцкі і С. Рысінскі. У 1786 А. Меер падрыхтаваў «Апісанне Крычаўскага графства або былога староства». Прынцыпу краёвага вывучэння нар. культуры прытрымліваліся М. Тукальскі-Нелюбовіч, Ю. Нямцэвіч, І. Храптовіч, Г. Калантай і інш. Грунтоўнае вывучэнне краю пачалося ў 19 ст. На пашырэнне К. пэўны ўплыў мелі *Віленскі музей старажытнасцей, Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства, Віцебская вучоная архіўная камісія, Таварыства вывучэння Магілёўскай губерні,* царкоўна-археал. к-ты, музеі. Краязнаўчыя матэрыялы змяшчаліся ў неафіц. аддзелах губернскіх і епархіяльных ведамасцей (гл. адпаведныя артыкулы), календарах, зборніках дакументаў і матэрыялаў *«Витебская старина», «Минская старина», «Могилёвская старина», «Полоцко-Витебская старина»,* перыяд. выданнях і зборніках, што выходзілі ў Пецярбургу, Маскве, Вільні, Кіеве, Варшаве.

Асобным рэгіёнам Беларусі прысвяцілі свае працы З. Даленга-Хадакоўскі і Т. Нарбут. К. Тышкевіч апісваў помнікі археалогіі і этнаграфіі, мастацтва («Вілія і яе берагі...», 1871), Я. Тышкевіч у «Апісанні Барысаўскага павета...» (1847) аналізаваў культурныя каштоўнасці краю, побыт народа. Пра этнаграфію Падзвіння пісалі Р. Падбярэскі, А. Рыпінскі, А. Сапуноў, Брэстчыны — Ю. Крашэўскі, Панямоння, Мінска — У.Сыракомля. Шмат зрабілі для развіцця К. па Беларусі А. Кіркор, А. Плятэр, І. Храпавіцкі, М. Балінскі, П. Шпілеўскі, А. Семянтоўскі, Е. Раманаў, М. Нікіфароўскі, М. Доўнар-Запольскі, А. Ельскі, А. Баргановіч, І. Сербаў, А. Сержпутоўскі, І. Луцкевіч, З. Радчанка і інш. У пач. 20 ст. матэрыялы па К. друкаваліся ў бел. газ. *«Наша ніва»*, час. «Лучынка», альманаху «Маладая Беларусь».

Пасля Кастр. рэвалюцыі бел. К. значна пашырылася. Цэнтрам яго стаў Інстытут бел. культуры, пры якім існавала *Цэнтральнае бюро краязнаўства.* У ліст. 1924 адбылася 1-я Усебел. краязнаўчая канферэнцыя, у лютым 1926 — 1-ы Усебел. краязнаўчы з'езд. З 1925 выдаваўся час. «Наш край» (у 1930—33 *«Савецкая краіна»*), выходзілі неперыядычныя краязнаўчыя зборнікі ў Віцебску, Магілёве, Оршы, Слуцку. Актыўныя арганізатары і ўдзельнікі краязнаўчага руху 1920-х г.— Я. Колас, З. Бядуля, М. Гарэцкі, Ц. Гартны, Б. Эпімах-Шыпіла, К. Крапіва, А. Шлюбскі, М. Каспяровіч, В. Самцэвіч і інш. Працаваў *Беларускі музей* у Вільні. У Латвіі існавала Бел. навук.-краязнаўчае т-ва (1920—40).

Пасля Вял. Айч. вайны ў цэнтры ўвагі краязнаўцаў — гераізм сав. народа ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі. З 60-х г. пашырыўся збор матэрыялаў рэв. і працоўнай нар. славы. У БССР

працуюць *Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры* (выдае бюлетэнь *«Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»*), Геаграфічнае т-ва БССР, Бел. т-ва аховы прыроды (з 1972 выходзіць час. «Родная прырода»). Пры Фондзе культуры БССР створана секцыя па краязнаўству (1987). У абласных і некаторых цэнтр. бібліятэках буйных гарадоў існуюць краязнаўчыя аддзелы. Значнае пашырэнне атрымалі школьнае і турысцкае, развіваецца літаратурнае К. Матэрыялы, сабраныя краязнаўцамі, становяцца прадметам навук. даследаванняў, экспанатамі краязнаўчых, этнагр. і інш. музеяў, выкарыстоўваюцца для ўшанавання памяці выдомых людзей, рэстаўрацыі помнікаў. Да этнагр. крыніц звяртаюцца канструктары-мадэльеры, мастакі і інш.

Значны ўклад у развіццё К. зрабілі і робяць М. Алексяюк, У. Калеснік (Брэст), М. Мельнікаў (Крычаў), І. Філіповіч (Магілёў), У. Урбановіч (в. Валеўка Навагрудскага р-на), А. Белакоз (в. Гудзевічы Мастоўскага р-на), М. Ляпеха (в. Кушляны Смаргонскага р-на), А. Пяткевіч (Гродна), А. Падлінскі, М. Плавінскі (Віцебск), К. Кожан (в. Германовічы Шаркоўшчынскага р-на), Р. Родчанка (Слуцк), М. Ермаловіч, Г. Каханоўскі, В. Ляшковіч (Маладзечна), М. Чарняўскі (Мядзел), М. Пашкевіч (в. Сваткі Мядзельскага р-на), П. Бітэль (в. Вішнева Валожынскага р-на), Д. Чорны (Клецк), Б. Міралюбаў (Пінск), Т. Гаранская (Заслаўе), С. Александровіч, А. Грыцкевіч, Л. Клок, А. Мальдзіс, С. Акуліч, Л. Пракопчык, У. Содаль (Мінск), М. Улашчык, А. Каўко (Масква), В. Грыцкевіч, М. Нікалаеў (Ленінград) і інш. *Г. А. Каханоўскі.*

**КРАЯЗНА́ЎЧЫЯ МУЗЕ́І**, навукова-даследчыя і культурна-асветныя ўстановы, якія камплектуюць, зберагаюць, вывучаюць і папулярызуюць натуральныя помнікі гісторыі, матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія звязаны з акрэсленай тэрыторыяй пэўнага краю (раёна, горада, вобласці). Падзяляюцца на навук.-асветныя, даследчыя, вучэбныя. У большасці выпадкаў К. м. комплексныя, дзе сабраны гіст., этнагр. і прыродазнаўчыя матэрыялы. Звычайна К. м. маюць аддзелы: гісторыі дасав. перыяду, гісторыі сав. грамадства, прыроды.

На Беларусі першыя музейныя калекцыі, дзе былі краязнаўчыя і этнагр. матэрыялы, вядомы з 18 ст. [«сапежынскі збор» у Ружанах (Пружанскі р-н), калекцыі І. Храптовіча ў в. Шчорсы (Навагрудскі р-н) і інш.]. У 19 ст. вядомы музейныя зборы А. Гюнтара ў в. Дабраўляны (Смаргонскі р-н). У 1830—40-я г. заснаваны кабінет М. Гаўсмана ў Мінску, дзе экспанаваліся матэрыялы па археалогіі, прадметы побыту беларусаў і інш. У 1837 заснаваны, у 1842 адкрыты музей старажытнасцей К. і Я. Тышкевічаў у Лагойску. У 1856 адкрыты *Віленскі музей старажытнасцей*, у якім было шмат экспанатаў з Беларусі. У 1867 адкрыты *Магілёўскі музей*, у 1897 *Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей*, у 1893 засн. *Віцебскі царкоўна-археалагічны музей*, у 1908 *Мінскі царкоўна-археалагічны музей*. У пач. 20 ст. дзейнічалі Горацкі, Мсціслаўскі музеі, нумізматычны Э. Чапскага ў в. Станькава (Дзяржынскі р-н). У 1920-я г. заснаваны Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, музей у Слоніме, Пінску. Багатыя бел. археал., этнагр. і мастацкія калекцыі меў *Беларускі музей* у Вільні. У Айч. вайну ням.-фаш. акупанты разбурылі будынкі музеяў, большасць экспанатаў разрабавалі ці знішчылі. У пасляваенны час усе музеі адноўлены, створаны новыя.

**Краязнаўчыя музеі БССР** (на 1988): Ашмянскі краязнаўчы музей, Бабруйскі краязнаўчы музей, Барысаўскі краязнаўчы музей, Беларускі дзярж. музей сацыяліст. пераўтварэння Палесся (Пінск), Бешанковіцкі краязнаўчы музей, *Брэсцкі абласны краязнаўчы музей*, Быхаўскі краязнаўчы музей, Бярозаўскі гіст.-рэв. музей, *Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці*, Ваўкавыскі ваенна-гіст. музей, Вілейскі краязнаўчы музей, *Віцебскі абласны краязнаўчы музей*, Гарадоцкі краязнаўчы музей, *Гомельскі абласны краязнаўчы музей*, *Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей*, Дзятлаўскі музей нар. славы, Ельскі краязнаўчы музей, Іканскі музей нар. славы, Карэліцкі краязнаўчы музей, Касцюковіцкі краязнаўчы музей, Клімавіцкі краязнаўчы музей, *Клецкі гісторыка-этнаграфічны музей*, Клічаўскі музей нар. славы, Крычаўскі краязнаўчы музей, *Лепельскі краязнаўчы музей*, *Лідскі краязнаўчы музей*, Лунінецкі краязнаўчы музей, Любанскі музей нар. славы, *Магілёўскі абласны краязнаўчы музей*, *Мінскі абласны краязнаўчы музей* (Маладзечна), Музей прыроды Белавежскай пушчы (в. Камянюкі Камянецкага р-на), Музей гісторыі г. Светлагорска, *Музей этнаграфіі* і Музей дзекабрыстаў (Магілёў), Мядзельскі музей нар. славы, Наваполацкі гарадскі краязнаўчы музей, *Пастаўскі раённы краязнаўчы музей*, *Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей* (в. Дукора Пухавіцкага р-на), Полацкі краязнаўчы музей, Полацкі гіст.-археал. запаведнік, *Рэчыцкі краязнаўчы музей*, *Салігорскі краязнаўчы музей*, *Свіслацкі гісторыка-краязнаўчы музей*, Слонімскі краязнаўчы музей, *Слуцкі краязнаўчы музей*, Смаргонскі краязнаўчы музей, *Столінскі краязнаўчы музей*, *Тураўскі краязнаўчы музей*, *Уздзенскі гісторыка-краязнаўчы музей*, Ушацкі музей нар. славы, Шумілінскі музей нар. славы.


Асноўныя тыпы апорных кроквaў.

У большасці з гэтых музеяў сабраны этнагр. калекцыі, якія прадстаўлены ў адпаведных аддзелах экспазіцыі. Асн. формы работы: экскурсіі, тэматычныя вечары, лекцыі, сустрэчы, арганізацыя выставак, тэле- і радыёперадач, клубаў маладзёжных і ветэранаў, гурткоў. У К. м. праводзіцца работа па выяўленню і вывучэнню новых матэрыялаў музейнага значэння. Музеям, што працуюць на грамадскіх пачатках, аказваецца метадычная дапамога. Супрацоўнікі музеяў удзельнічаюць у напісанні гісторыі свайго краю, у распрацоўках тэматычных экскурсій, у выяўленні і ахове помнікаў прыроды, гісторыі і культуры Беларусі; асаблівую ўвагу аддаюць патрыят. выхаванню моладзі. Выпускаюць даведкі, буклеты, лістоўкі, каталогі. *Г. А. Каханоўскі.*

**КРО́КВЫ**, апорныя элементы каркаснай канструкцыі *страхі*. Робяцца з тонкіх бярвён, заўсёды ставяцца парамі, у вільчыку злучаюцца ўрубкай і тэблем. Пасярэдзіне, а часцей крыху вышэй, пара К. злучаецца брусам («поясам»). У адзіную канструкцыю К. аб'ядноўваюцца *латамі*, якія прыбіваюцца тэблямі, цвікамі (даўней прывязваліся лазой). Існуе некалькі спосабаў урубкі К.: у верхні вянок зруба *(ачэп)*, у верхні вянок і *закоцвіну*, у падоўжны брус, пакладзены на засценныя і ў засценныя выступы папярочных бэлек. Найбольш дасканалая канструкцыя страхі з апорай К. непасрэдна на бэлькі пашырылася ў сялянскім будаўніцтве з пач. 20 ст. Такі спосаб мацавання ніжніх канцоў К. дазваляе ствараць прасцейшыя фермы, у якіх уся сіла распору ўспрымаецца бэлькай. У сучасным будаўніцтве робяць страхі на К. з індустрыяльных элементаў.

**КРОСНЫ**, 1) *ткацкі стан* з навітай асновай для ткання ў хатніх умовах. Найбольш важныя часткі і прыстасаванні пашыраных на Беларусі гарызантальных К.: *ставы* (апорны каркас), на якіх мацаваліся *навоі* (для асновы і тканіны); *ніты*, у якіх накідалася аснова; *бёрда з набіліцамі* для прыбівання ўтку; *панажы*, *кацёлкі* для прывядзення ў рух нітоў і ўтварэння зева пры тканні. Пачыналі наладку К. з навівання падрыхтаванай асновы (гл. ў арт. *Снаванне*). Расплятаючы аснову, не пастаянна часалі драўляным грэбнем (для раўнамернага размеркавання) і,

нацягваючы, накручвалі на навой. Для ўтварэння зева ў аснову прапускалі 2 вузкія (2—3 см) «чыноўныя» дошчачкі, якія перасоўвалі па меры накручвання асновы. Наступны этап — накіданне асновы ў ніты. Парадак прапускання асновы ў ніты і іх колькасць залежалі ад узору будучай тканіны (колькасць нітоў вагалася ад 2 да 16 і больш). Аснову прапускалі ў бёрда, звязвалі па некалькі нітак разам, прадзявалі пруточак і замацоўвалі яго на навоі. Ніты злучалі з панажамі. Паладка К. і тканне лічыліся жаночай справай. На К. выраблялі разнастайныя тканіны ад 2-нітовага палатна да шматнітовых і перабіраных узорыстых ручнікоў, абрусаў, посцілак і інш. 2) Ніцяная аснова, што навіваецца на навой ткацкага стана.
*Г. М. Курыловіч.*



**Кросны:** 1 — ставы (ставіцы); 2 — бёрда; 3 — пабіліцы; 4 — ніты; 5 — аснова; 6 — навоі; 7 — панажы.

**«КРО́СНЫ»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана-хуткі. Кампазіцыйны прасторавы малюнак танца нагадвае рух ніткі ў працэсе ткання. Асноўныя рухі — простыя і пераменныя крокі, па-дэ-баскі, падбівак. Сустракаюцца парныя варыянты выканання «К.». Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Бабруйскім і Бялыніцкім р-нах Магілёўскай вобласці.

**КРОШЫНСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАГА МАСТА́ЦТВА І РАМЕ́СТВАЎ** імя Паўлюка Багрыма. Адкрыты 14.9.1985 на радзіме бел. паэта П. Багрыма ў в. Крошын Баранавіцкага р-на. Размешчаны ў будынку былога касцёла. Плошча экспазіцыі 80 м², каля 150 экспанатаў (1988). У аснову экспазіцыі пакладзены матэрыялы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю П. Багрыма. Сярод экспанатаў прадметы нар. мастацтва і побыту — кавальскія вырабы (некаторыя з іх, як мяркуюць, работы П. Багрыма), плеценыя рэчы, гліняны посуд, ткацтва, набіваныя тканіны, вышыўка, вырабы з дрэва і інш. *Я. М. Сахута.*

**КРУГ**, адзінка колькасці воску. Пераплаўлены воск на васкабойнях адлівалі ў спец. формы ў выглядзе круга ці паўкруга (штука). Як мера вагі не меў устойлівага эквіваленту. На мініяцюры Радзівілаўскага летапісу, дзе паказаны прыём Ігарам грэчаскіх паслоў, невядомы мастак намаляваў на стале тры К. воску. К. абазначаў таксама меру колькасці сыру, масла, макухі.

**КРУК**, 1) прыстасаванне ў традыцыйным *інтэр'еры хаты*. На К. вешалі адзенне, вярэнькі, калыскі і інш. Рабілі з сука, які заганялі ў прасвідраваную ў сцяне адтуліну. Металічныя К. рабілі ў кузні. 2) Жалезная прылада з двума загнутымі канцамі для скідвання гною з воза. 3) Драўляная ці жалезная прылада для размякчэння аўчын і шкурак дзікіх звяроў. Складалася з ручкі, стрыжня і прымацаваных да яго вяровачнай або раменнай пятлі для нагі і рабочай часткі — К. (мацаваўся пад вострым ці прамым вуглом). Аўчыну (шкурку) прывязвалі да бэлькі ў хаце або ў хляве. Левай рукой трымалі другі канец аўчыны (шкуркі), правай рукой і стрыжнем, які прыводзіўся ў рух правай нагой, устаўленай у пятлю, вадзілі па мяздры ўверх-уніз, пакуль уся паверхня не рабілася мяккай і белай. Вясковыя кушняры карыстаюцца К. і ў наш час. 4) У рыбалоўстве — дапаможнае прыстасаванне для зімовай лоўлі рыбы невадам. Выгнутая палка, звужаная на адным канцы, на які насаджваўся востры металічны наканечнік; на другім канцы прымацоўвалася папярочная ручка. К. прызначаўся для пошуку і прагону пад лёдам жэрдкі з вяроўкай, за якім потым працягвалі невад. Рабілася гэта праз палонкі, прасечаныя на шляху руху невада.
*С. А. Сергачоў, Н. І. Буракоўская, І. М. Браім.*

**КРУ́ПНІК**, 1) крупеня, рэдкая страва з круп. Лакальная назва кулеш. Часцей за ўсё гатавалі з ячных або прасяных круп. Забельвалі малаком або варылі з мясам, бульбай. Часам варылі на сыроватцы, на Брэстчыне — са свіной крыві і круп. Вядомы паўсюдна. 2) Напітак з гарэлкі, пераваранай з мёдам, журавінамі і духмянымі прыправамі, карамнямі. Быў вядомы на Гродзеншчыне, Магілёўшчыне.


**Крук** для зімовай лоўлі рыбы невадам. Вёска Перабродзе Міёрскага раёна.

**«КРУТУ́ХА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Аснова пабудовы танца — геаметрычны ўзор, арнамент. Для «К.» характэрна масавае і парна-масавае выкананне, часам выконваюць толькі тры танцоры. Галоўны рух — полька ў пары па крузе то ў адзін, то ў другі бок. Рэгіянальныя варыянты ўключаюць таксама шэн па крузе, пераход да інш. партнёра, кручэнне пад рукой. Танец суправаджаецца шматлікімі прыпеўкамі. Распаўсюджаны па ўсёй Беларусі. *А. Л. Варламаў.*

**«КРУЦЁЛЬКІ»**, традыцыйны танец. Называецца таксама «Круцёлкі», «Круцель». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Назва ад хуткіх разнастайных кручэн-

няў, што складаюць яго аснову (у выглядзе до-за-до, шэн, кручэнні пад рукой). Асноўны крок — «полька», бег. Суправаджаецца шматлікімі прыпеўкамі (многія варыянты музычнага суправаджэння да «К.» запісаны М. Федароўскім). Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях.

*А. Л. Варламаў.*

**КРУЦЁЛКА**, прылада для віцця вяровак у дзве столкі. Мела выгляд трызубца з дзяржаннем уніза і перакладзінай уверсе. Была пашырана ў 19 — пач. 20 ст. У наш час не выкарыстоўваецца.

**КРУЧКІ**, прылада для віцця вяровак у 2—3 столкі. Формай нагадваюць рагатку. У вёсках зрэдку карыстаюцца К. і ў наш час.

**КРЫВІЧЫ**, вялікая група ўсходніх славян, якія жылі на тэрыторыі басейна верхняга Дняпра, Зах. Дзвіны, Волгі, поўдні Чудскога возера. Назву «крывічы» выводзяць па-рознаму: ад прозвішча старэйшага роду Крыва; ад слоў «крэўныя» («блізкія па крыві») і інш. Першыя пісьмовыя звесткі пра К. у пачатковым летапісе «Аповесці мінулых гадоў» і ў візантыйскага гісторыка Канстанціна Багранароднага. Працэс фарміравання К. пачаўся ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н. э. і скончыўся прыкладна ў 9 ст. Пры рассяленні асімілявалі мясцовыя балцкія і зах. фінскія плямёны. Археал. помнікі К.— курганныя могільнікі з доўгіх (больш ранняя, пахавальны абрад — трупаспаленне) і круглых у плане (пахавальны абрад — трупапалажэнне) курганоў. Сярод пахавальнага інвентару бронзавыя бляшкі-шкарлупінкі, сінія шкляныя пацеркі, жалезныя спражкі, цуглі, шпоры, ляпная кераміка (акруглае плячо ў верхняй частцы тулава гаршка захавана і ў кераміцы, зробленай пазней на ганчарным крузе). Для полацкіх і смаленскіх К. характэрная племянная адзнака — бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. К. займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, у іх былі развіты хатнія промыслы. Жылі на селішчах, размешчаных па берагах рэк і азёр, у 6 — 1-й пал. 8 ст. існавалі гарадзішчы-сховішчы, дзе ўкрывалася насельніцтва ў час ваеннай небяспекі і арганізоўвалася калектыўная абарона; яны служылі і рэлігійнымі цэнтрамі. Заснавалі гарады Полацк, Смаленск, Пскоў, Ізборск, Віцебск, Лукомль. У 7—9 ст. у сацыяльных адносінах К.— саюз плямён, у рамках якіх фарміраваліся класы, дзяржаўнасць («княжанні»). К., якія жылі па сярэднім цячэнні Зах. Дзвіны, летапісец часта называў палачанамі. У канцы 9 ст. К. ўвайшлі ў склад Кіеўскай Русі. Удзельнічалі ў паходах Алега (906) і Ігара (944) супраць Візантыі. У гэты час назва К. мела ўжо тэрытарыяльнае значэнне. Апошні раз упамінаецца ў летапісе пад 1162. Ад этноніма К., відаць, паходзяць назвы шэрагу вёсак Крывічы ў Зэльвенскім, Іўеўскім, Салігорскім, Глыбоцкім, Пінскім, Докшыцкім, Ашмянскім, Мядзельскім, Смаргонскім раёнах.

**«КРЫВЫ ТАНОК»**, веснавы карагод. Называўся таксама «Крывы танец». Пашыраны на У Беларусі. Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, з песняй абыходзілі «крыва» трох удзельніц (або хлопчыкаў, або калкоў, убітых у зямлю). Затым карагод замыкаў ланцуг. У многіх варыянтах тэкстаў гаворыцца пра нялюбага мужа («Мой нялюбы ў гуслі грае» — Веткаўскі р-н); выяўляецца масленічная тэматыка («Дзеўкі кашу варылі, //Жоўтым маслам палівалі,//Белым сырам пасыпалі» — Веткаўскі р-н), казачная таямнічасць і інш. Карагод вядомы з глыбокай старажытнасці і звязаны з язычніцкімі шлюбнымі ігрышчамі («Пайду ў танок, саўю вянок»). Матыў згубленага вянка (сімвал дзявочай цнатлівасці) і засейнага поля (сімвал пладавітасці жанчыны) — асноўная ідэя песень і дзеянняў карагода. У Гомельскім пав. таксама вадзілі «К. т.» пад песню «Ой, венча, мой венча» («Ой, я цябе звіла, я цябе ды не насіла...//А мацюхна зняла, да й нялюбаму дала»,— запіс З. Радчанка). У Чарнігаўскай губ. беларусы вадзілі карагод «Лука» вакол трох хлопчыкаў, якіх затым падымалі вышэй галавы, каб «доўгі лён радзіў» (запіс М. Косіч). Водзяць «К. т.» і з сучаснымі песнямі («Ой, на рэчцы, рэчцы там дзеўка гуляла») у Веткаўскім р-не, які з'яўляецца эпіцэнтрам бытавання «К. т.», як і карагода «Страла». На масленічным тыдні, калі ў асноўным вадзілі «К. т.», быў т. зв. «крывы чацвер», на які не рэкамендавалася што-небудзь садзіць у агародзе. Апісанне аднаго з варыянтаў карагода зрабіў У. Дабравольскі ў «Смаленскім этнаграфічным зборніку» (1903), калі дзяўчаты становяцца на некаторую адлегласць адна ад адной, утвараючы быццам бы тры вяршыні трохвугольніка. Астатнія ўдзельнікі, узяўшыся за рукі і ўтварыўшы ланцужок, з песняй абыходзяць дзвюх дзяўчат, якія знаходзяцца ў аснове трохвугольніка і аббягаюць кожны раз з другога боку дзяўчыну, якая стаіць на яго вяршыні. Карагод у час руху ўтварае фігуру, падобную на дзве злітыя васьмёркі.

*А. Ю. Лозка, Ю. М. Чурко.*




**КРЫВЯНКА**, крывяная каўбаса. Называлі таксама крупянка, кашанка, мучанка. Робяць К., як колюць кабана і ёсць свежая кроў. Адварваюць крупы (даўней — грэцкія, ячныя, у наш час — і рыс), дадаюць тлушч, скваркі, прыправы, уліваюць кроў. Усё мяшаюць, кладуць (наліваюць) у тоўстыя кішкі, пякуць на бляхах або абварваюць, а потым падпякаюць. Часам крупы сыплюць у кроў сырымі. У Пухавіцкім, Жыткавіцкім р-нах у К. дадаюць дробна пасечаныя вантробы. Замест круп у К. часам дадаюць муку (Жабінкаўскі,







**Крыга.**

Вышыўка аднабаковым **крыжыкам** (рукаў кашулі).

**Крычаўская кераміка.** Хатні посуд 15 — канца 19 ст.

Бярозаўскі, Жыткавіцкі, Лоеўскі, Рагачоўскі р-ны). Часам у К. дадаюць драную бульбу. Вядома на Беларусі паўсюдна. *Г. Ф. Вештарт.*

**КРЫ́ГА**, традыцыйная прылада для лоўлі рыбы ў неглыбокіх зарослых месцах. Складалася з двух палазоў і шаста (дзеда), да якіх прымацоўвалася сетка з тоўстых нітак або рэдка вытканае палатно. Канцамі палазы злучаліся з шастом так, што маглі ўтвараць любы вугал. Рыбу лавілі ўтрох: двое, трымаючы К. за сагнутыя канцы палазоў, цягнулі яе, а трэці пры дапамозе дзеда прыціскаў палазы да дна. Каб праверыць улоў, палазы зводзілі і прыпадымалі К. над вадою. Была пашырана па ўсёй Беларусі. *І. М. Браім.*

**«КРЫЖАЧО́К»**, традыцыйны танец, пабудаваны па малюнку крыжа. У некаторых мясцовасцях называецца «Крыж». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Папулярны амаль па ўсёй Беларусі. Мае мноства варыянтаў, дзе крыж уяўляецца ў малюнках на плоскасці ў пабудове выканаўцаў, у паставе рук партнёраў. Выконваецца часцей за ўсё парамі. Сцэнічныя варыянты «К.» створаны ў 1920-я г. К. Алексютовічам, выкарыстаны ў балеце В. Залатарова «Князь-возера». *Ю. М. Чурко.*

**КРЫ́ЖМА**, кавалак палатна, на які клалі дзіця пасля хрышчэння ў царкве. К. прыносіла кума (хрышчоная маці дзіцяці).

**КРЫ́ЖЫК**, від вышыўкі. У залежнасці ад асаблівасцей выканання, колеру, узору вылучаюць некалькі відаў К. Адна з найбольш старажытных — вышыўка двухбаковым К., характэрная для Падняпроўя (бытавала да 19 ст.). Шво пляцёнкай (праведзец, праводка; сустракалася па ўсёй Беларусі) выконвалася пераважна чырвонымі баваўнянымі ніткамі і прызначалася ў асноўным для выдзялення лінейнага контуру арнаментальных кампазіцый. Жаночыя гарсэты, кажухі, світы вышывалі разнавіднасцю такой пляцёнкі — козлікам. Найбольш распаўсюджаны прыём нар. вышыўкі аднабаковы (просты, адзіночны) К. Пры запаўненні вялікай плошчы ўзору ўжываўся К. з вертыкальнымі шыўкамі на адваротным баку тканіны (гарызантальныя шыўкі атрымліваліся, калі кожны крыжык шыўся адзін за адным). Для акаймавання арнаментальных кампазіцый нярэдка вышывалі палоскі з рытмічным чаргаваннем К. і фонавага палатна. Ва ўзорах 2-й пал. 19 ст. аднабаковы К. часцей сустракаўся ў спалучэнні з асноўнымі відамі традыцыйных вышывак *працягам*, двухбаковай *гладдзю*, пляцёнкай і інш. З пач. 20 ст. ён паступова стаў адным з самых распаўсюджаных спосабаў аздаблення мужчынскіх і жаночых кашуль, фартухоў, галаўных убораў, а таксама ручнікоў і абрусаў. Параўнальная лёгкасць і хуткасць выканання такой вышыўкі выклікала паступовае знікненне больш складаных вышывак і ўзорыстага ткацтва. Гэтаму спрыялі і масавыя друкаваныя выданні, якія прапагандавалі кветкавыя ўзоры менавіта ў тэхніцы аднабаковага К. У канцы 19 — 1-й пал. 20 ст. мужчынскія кашулі, ручнікі ўпрыгожвалі таксама падвойным (балгарскім, нямецкім) К., які вызначаўся большымі памерамі і для выканання якога на іголку набіралі да 6 нітак-чысленак (найбольш распаўсюджана на Гомельшчыне).

**КРЫ́ЖЫКІ**, адна з форм укладкі снапоў пры сушцы ў полі. У першы рад гарызантальна клалі 4 снапы, адзін насупраць другога пад прамым вуглом; каласамі ў цэнтр. На першы рад накладвалі 2-і, 3-і, 4-ы рады. Зверху іх накрывалі снапом. К. больш устойлівыя пры ветры, чым *бабкі*, але ў дажджлівае надвор'е ніжні рад снапоў мог адсырэць, а зерне сапсавацца. Сушылі ў К. звычайна ячмень, пшаніцу, авёс. *Л. І. Мінько.*





**Крычаўская кераміка.** Тэракотавая кафля 17 ст.

**КРЫЛО́**, прыстасаванне, якім пчаляры змяталі пчол з сотаў, калі падмяталі вуллі вясной і пры іх кантрольных аглядах на працягу сезона, а таксама пры аграбанні раёў у раёўню. Называлася таксама крылка. Звычайна гэта было крыло дзікай або свойскай птушкі, найчасцей за ўсё гусінае. У наш час ужываюцца шчоткі са шчаціння ці конскага воласу. К. гаспадыні змяталі з прыпечка смецце.

**«КРЫ́НКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Асноўны рух — простыя крокі з акцэнтам на першую долю такта. Часам выканаўцы адвольна ўключалі трайныя прытупы або «польку» ў пары. «К.» выкон-











Калачападобныя і двухлязовыя авальныя **крэсівы.** 9—14 ст.

**Крэсла.** Вёска Трабы Іўеўскага раёна. 19 ст.

Магалейка для **крэсіва.** 19 ст.

**Крэсла.** Вёска Сакаўшчына Маладзечанскага раёна. 1920-я г.

**Крэсла.** Столінічына. 19 ст.

валі па крузе як па ходу, так і супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі. Зафіксавана ў Брэсцкай і Віцебскай абл.

*С. У. Клімовіч.*

**КРЫ́ЧАЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы 15—20 ст. з г. Крычава. Промысел вядомы з 12 ст. Росквіту дасягнуў у канцы 16—пач. 18 ст. Выраблялі з чырвонай гліны паліваны сталовы посуд (міскі, талеркі, збаны, кубкі і інш.), кафлю, дэкаратыўныя архітэктурныя ўпрыгожанні, вазы, цацкі, дробную анімалістычную пластыку (выявы мядзведзяў, ільвоў, бараноў і інш.), якія вылучаліся высокім узроўнем тэхналогіі вытворчасці. У аздабленні кафлі 16—18 ст. тэракотавай, паліхромнай, паліванай пераважалі геаметрычны і раслінны арнаменты, геральдычныя і анімалістычныя выявы. Вырабы вывозілі ў іншыя раёны Беларусі. У пач. 20 ст. працавала больш за 70 ганчароў. Калекцыі К. к. зберагаюцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР, Крычаўскім раённым і Магілёўскім абласным краязнаўчых музеях.

*М. А. Ткачоў, У. В. Угрыновіч.*

**КРЭ́СІВА**, красала, металічная прылада для высякання агню з крэменю. Вядома з эпохі жалезнага веку. На тэр. Беларусі найб. старажытнае К. датуецца познім этапам зарубінецкай культуры (2—5 ст. н. э.). Яно зроблена з нераўнамерна навугляроджанага металу з наступнай тэрмаапрацоўкай (гартаваннем). Выкарыстоўваліся розныя тыпы К.: ліраподобныя (10—12 ст.), двухлязовыя падоўжана-авальнай формы (12—13 ст.) і двухлязовыя авальныя (13—14 ст.). К. бытавала на працягу многіх стагоддзяў. Высечаная з крэменю іскра надпальвала цэру (мяккую, пушыстую, накшталт ваты, масу з вываранага, вымачанага і высушанага дрэўнага грыба). Крэмень, К., цэру звычайна насілі з левага боку пояса ў магалейках — адмысловых скураных капшуках. Са з'яўленнем у 19 ст. запалак сфера бытавання К. пачала звужацца, спачатку — у горадзе, затым на сяле, дзе паўны час сяляне выраблялі запалкі саматужным спосабам. У перыяд ням.-фаш. акупацыі беларусам давялося зноў вярнуцца да здабывання агню К. Ім карысталіся і партызаны. Выраблялі К. мясцовыя кавалі са старых напільнікаў і інш. утыльных стальных вырабаў. Замест цэры ўжывалі лямпавы кнот ці скручаную тканіну, запраўленую ў бляшаную трубку.

*С. Ф. Цярохін.*

**КРЭ́СЛА**, сядзенне на чатырох ножках са спінкай, від *мэблі.* Вядома з сярэднявечча. Гатычныя К.— з высокай прамой спінкай; рэнесансныя — упрыгожаныя стрыманай разьбой і тачэннем (напр., К. пач. 17 ст. з Гродзенскага

замка); барочныя — адмысловых разнастайных форм з пышнай разьбой расліннага характару, пазалотай, абіўкай скурай ці тканінай; часоў класіцызму і ампіру — лёгкія, простых выразных абрысаў, часам з металічнымі накладкамі і інкрустацыяй. З канца 19 ст. пашырана і ў нар. побыце. Выраблялі К. звычайна мясцовыя майстры-саматужнікі; аздаблялі прапілоўкай на спінцы, точанымі элементамі, часам — трохгранна выемчатай ці рэльефнай разьбой. Бывалі і складныя К. на Х-падобных ножках з рашэцістым сядзеннем і спінкай. У 1-й пал. 20 ст. папулярнасцю (асабліва ў гар. і местачковым побыце) карысталіся гнутыя, т. зв. венскія, плеценыя з лазы К. У наш час самаробныя К. выцеснены прамысловымі вырабамі. *Я. М. Сахута.*

**КРЭ́ЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы (збанкі, гладышы, гаршкі, цёрлы, міскі, слоікі, вазоны і інш.) з в. Крэва Смаргонскага р-на — буйнога цэнтра керамічнай вытворчасці 19 — 1-й пал. 20 ст. Промысел вядомы з 14 ст. Вылепленыя вырабы дапрацоўвалі на ручным ганчарным крузе з наступным гартаваннем або дымленнем; у 2-й пал. 19 — 20 ст. посуд рабілі на ножным крузе і глазуравалі, часам аздаблялі падглазурнай ангобнай размалёўкай у выглядзе простых раслінных матываў. Посуд вызначаецца ўстойлівымі формамі, выразным S-падобным профілем сценак. З 1950-х г. бытавыя глазураваныя вырабы нешырокага асартыменту (збанкі, вазоны, цёрлы) вырабляе кафляны цэх Астравецкага камбіната будаўнічых матэрыялаў. Калекцыі К. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР. *Я. М. Сахута.*

**КУ́БАК**, к о н а ў к а, к в а р т а, невялікая гліняная, драўляная, металічная, часам лубяная пасудзіна цыліндрычнай, усечана-канічнай або бочкападобнай формы з ручкай. Лакальная назва кухлік. Ёмістасцю звычайна не больш 1 л. Выкарыстоўваўся для піцця вады, квасу і інш. напіткаў. Гліняныя К. рабілі паліванымі і чорназадымленымі. Аздаблялі лінейна-хвалістым контррэльефным арнаментам, глянцаваным геаметрычным узорам, ангобнай размалёўкай, радзей ляпным дэкорам. На Пн Беларусі для трываласці К. апляталі бярэстай. Унутраную паверхню медных і латунных К. лудзілі. *С. А. Мілючэнкаў.*

**КУ́БАК**, святочны галаўны ўбор дзяўчат у *неглюбскім строі* 19— сярэдзіны 20 ст. Граненая або часткова скругленая на патыліцы карона-каробачка выш. 11—12 см, якую надзявалі паверх валасоў, заплеценых у адну касу. Каробачку (каркас) рабілі з лубу, паперы і абшывалі тканінай. Аздаблялі К. паскам белых карункаў, гладкафарбаванымі чырвонымі, зялёнымі, аранжавымі, сінімі стужкамі (кожная стужка выступала адна з-пад адной на 3—5 мм). Па ніжнім краі нашывалі самую прыгожую, затканую рознакаляровымі дробнымі кветачкамі, лісцікамі на фіялетавым фоне стужку — «цвятоўку», якая сваёй прыгажосцю вылучалася ў агульнай кампазіцыі. Колькасць стужак даходзіла да 25. Ззаду стужкі сшывалі, свабодныя канцы іх пакідалі даўжынёй на 1 м. На У Магілёўшчыны і Гомельшчыны К. вядомы таксама як вясельны галаўны ўбор маладой. *М. Ф. Раманюк.*



Дзяўчына ў **кубку**. Веткаўскі раён.



**Кубак.**



**Кубел.**

**КУ́БЕЛ**, бандарны выраб, у якім хавалі адзенне, саматканае палатно, каштоўныя рэчы. Лакальная назва бодня. К. рабілі з доўгіх (да 120—140 см) асінавых ці хваёвых клёпак, якія расстаўлялі вакол круглага, радзей эліпсоіднага днішча і сцягвалі 4—7 абручамі. Дзве больш доўгія процілеглыя клёпкі, што выступалі зверху, утваралі вушкі (былі К. і без іх). Неабходны элемент К.— накрыўка простая ці з абечкам (века). Яна зацiскалася зверху засаўкай (цуркай), прасунутай праз вушкі; на адным канцы цуркі часам была прорэзь для замка. К. быў неабходным атрыбутам вясельнай абраднасці і сустракаўся ў шырокім ужытку да пач. 20 ст. Кожная дзяўчына на выданні мела свой К., у які загадзя руплівa збірала *пасаг*. Пасля вяселля К. з пасагам цырымонна грузілі на воз і пад гукі бомаў следам за маладой везлі ў дом маладога. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў сельскім побыце замест. К. ўсё часцей ужываліся *куфры*, пазней — камоды і *шафы*. У наш час К. эпізадычна сустракаюцца ў сялянскім ўжытку, але выкарыстоўваюцца пераважна для захавання збожжа і некаторых хатніх рэчаў. *В. С. Цітоў.*

**КУБЕ́ЛЕЦ**, бандарны выраб, прызначаны для захавання сала і мясных прадуктаў. Называлі таксама кублік, сальнік. Памерамі меншы за *кубел* (вышыня 50—75 см). Рабіўся з дубовых, радзей асінавых, альховых клёпак, сцягнутых жалезнымі ці драўлянымі (дубовымі, арэхавымі) абручамі. Меў простую накрыўку, якая прыціскалася засаўкай, прасунутай праз вушкі дзвюх даўжэйшых процілеглых клёпак. У сельскім побыце сустракаецца і ў наш час.

**КУБЕ́ЛЬНІК**, вясельны чын з боку маладога або маладой, які павінен быў выкупіць кубел (скрыню, куфар) з пасагам у сваякоў маладой, заплаціць прысутным за перанос яго на воз і адвезці разам з посагам *прыданых* да маладога. Называўся таксама надкубальнік, вазіла. Жаніх або яго бацька выкуплялі ў К. кубел, «ацэньваючы» яго кошт па колькасці абручоў на ім. За перавоз кубла маладая звычайна пакрывала каня станам палатна, якое забіраў К. *Л. А. Малаш.*

**КУБЕ́ЛЬЧЫК**, бандарны выраб, пасудзіна на 3—4 л для дастаўкі стравы ў «рабочы вугал» (на жніво, сенажаць, месца выпасу статку і інш.); тое, што і *бельчык*.

**КУВА́ДА** (ад франц. couvade выседжванне яек), сукупнасць радзінных звычаяў і абрадаў, якія стваралі ілюзію, што раджае не маці, а бацька. Згодна з К. прысутнасць мужа аблягчала пакуты жонкі ў час родаў (муж ляжаў на лаве і стагнаў або паіў жонку вадой са свайго рота і інш.). На Беларусі К. не мела шырокага распаўсюджання.

**КУДЗЕ́ЛЯ**, 1) любое валакно, падрыхтаванае да прадзіва. 2) Ачоскі лёну (пачэссе, абдзіркі, зрэб'е), якія заставаліся пасля часання валакна на *кужаль*. Пры дапамозе верацяна валакно калацілі, складвалі пластамі і скручвалі ў трубку.

**КУ́ЖАЛЬ**, ільняное валакно вышэйшай якасці, атрыманае пасля часання кудзелі на *грэбені*. К., што прызначаўся для вырабу тонкіх наміткавых тканін, дадаткова часалі шчоткай са свіной шчаціны. Гатовы К. скручвалі ў трубку і захоўвалі да прадзіва. К. называлі таксама ніткі з такога валакна і палатно з такіх нітак.

**КУЗАРО́Б**, зроблены на хуткую руку невялікі канічнай формы чарпачок з бяросты, радзей лубу з прымацаваным замест ручкі прутком даўжынёю 30—40 см. Называўся таксама кузаробка. Выкарыстоўваўся для піцця вады з крыніц, рэчак, азёр, а таксама пчалярамі пры аграбанні раёў.

**КУ́ЗНЯ**, майстэрня для ручной коўкі металу (гл. *Кавальства)*. На Беларусі вядома з 14—15 ст. Квадратная ў плане (ці блізкая да яго) пабудова з драўніны, часам глінабітная, без столі, з драўлянай страхой, земляной падлогай, невялікімі дзвярыма і акенцам. Драўляныя сцены часам тынкавалі знутры (для пажарнай бяспекі); на высокіх месцах К. заглыблялі ў зямлю. Ставілі наводдаль ад забудовы, бліжэй да вады. Стацыянарнае абсталяванне К.— *горан*, што ўзводзілі насупраць уваходу ці злева ад яго. Пасярэдзіне ўкопвалі калоду, на якой мацавалі кавадла, каля яго ставілі карыта з вадой ці ўкопвалі бочку для ахалоджвання і загартоўкі вырабаў. Пад акенцам майстравалі драўляны насціл (варштат) для выканання розных не звязаных з каваннем работ і размяшчэння *кавальскіх інструментаў*. Да яго ці да вушака дзвярэй мацавалі ціскі (шрубштак), да другога вушака ці на сцяне — дрыль для свідравання дзірак (бормашына). Побач з К. укопвалі калоду ці клалі каменны жоран для нацягвання шынаў на колы, ставілі драўляную загародку-станок для кавання коней. Калгасныя і саўгасныя К. будуюць у комплексе з рамонтнымі майстэрнямі, аснашчаюць неабходным абсталяваннем з механізацыяй асноўных вытворчых працэсаў, электра- і газазваркай. *Я. М. Сахута.*

**КУ́ЗНЯ**, даўняя адзінка вымярэння мёду. У гіст. дакументах згадваецца толькі з метрычным значэннем, без вызначэння аб'ёму: «...дані чотыри карамоны мёду пресного а два ведре, а две кузни мёду». У наш час К.— невялікі берасцяны посуд для збірання ягад (Бярозаўскі раён).

**«КУ-КУ»**, імправізаваны танец-гульня. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Распаўсюджаны на правабярэжжы Прыпяці. Мае шмат варыянтаў. У адным з іх гульцы становяцца папарна ў адну калону, злучаюць уверсе рукі і ўтвараюць «вароты». Апошняя пара калоны «нырае» ў «вароты» і бяжыць наперад, гучна вымаўляючы «ку-ку». Астатнія пары адыходзяць спіною назад. Дайшоўшы да месца пары, якая першай «нырнула» ў «вароты», паўтараюць тое ж дзеянне («ныраюць» у «вароты»). У другім варыянце «ныранне» ў «вароты» пачынае пара, якая стаіць першай у калоне, астатнія рухаюцца ўперад і г. д. У трэцім варыянце «ныранне» ў «вароты» пачынае апошняя пара, але пары, што «выныр-ваюць» з «варот», становяцца папераменна то з правага, то з левага боку калоны і ўтвараюць шарэнгу. Пара, якая завяршае шарэнгу, некалькі разоў моцна вымаўляе «ку-ку» — такім чынам абвяшчае пра заканчэнне гульні. Часам названыя варыянты спалучаюцца разам. Такі тып гульні зафіксаваны на Тураўшчыне. У варыянце з Нараўлянскага р-на праглядаюцца элементы нар. рытуальных дзеянняў. Перад пачаткам гульцы (пажадана цотная колькасць) становяцца ў дзве шарэнгі адна насупраць другой: у адной — дзяўчаты, у другой — хлопцы. Рукі кладуць на талію пярэдняга гульца. Пачынаецца гульня гучным перазовам шарэнгаў: «Ку-ку, ку-ку, ку-ку!». Шарэнгі рухаюцца адна адной насустрач, чаргуючы простыя крокі з прысяданнем. У час прысядкі гульцы зноў вымаўляюць «ку-ку, ку-ку» ў бок процілеглай шарэнгі. Пры сустрэчы пераходзяць то на адзін, то на другі бок сустрэчнай шарэнгі. Як толькі сустрэнуцца першыя і апошнія гульцы, шарэнга рухаецца ў бок дзяўчат. Пачынаюць пляскаць адзін аднаму ў далоні, вымаўляючы «ку-ку». Пасля некалькіх такіх паўтораў хлопцы і дзяўчаты разбягаюцца ў супрацьлеглыя бакі. Апынуўшыся на сваім месцы, хлопцы і дзяўчаты па чарзе пляскаюць у ладкі, а потым некалькі разоў гучна вымаўляюць «ку-ку». *М. А. Козенка.*

**КУЛА́ГА**, даўняя страва з мукі, кісласалодкая мучная каша. Варылі К. з жытняй або грэцкай мукі, з іх сумесі ці з жытняга соладу. Муку спачатку разводзілі летняй або халоднай вадой, размешвалі, потым залівалі варам і падварвалі. Страва набывала салодкі смак (саладжала), потым яе ставілі ў цёплае месца ці вылівалі ў дзежку, каб укісла. Часам К. запарвалі, квасілі, потым варылі. К. нічым не запраўлялі, елі з бульбаю, хлебам. Часам К. варылі з калінай, чарніцамі. Вядома амаль па ўсёй Беларусі (за выключэннем зах. часткі). У розных мясцовасцях К. гатавалі па-свойму: на Усх. Палессі варылі з жытняй і грэцкай, часам ячнай, зрэдку — кукурузнай мукі; у паўн., паўн.-ўсх. і цэнтр. частках Беларусі — з жытняй мукі ці з бульбы, на Мсціслаўшчыне — з аўсянай мукі. *Г. Ф. Вештарт.*



Унутраны выгляд кузні. Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

**КУЛЕ́Ш**, 1) рэдкаватая страва з мукі. У мясны булён, у якім варылася рабрынка, каўбаса, мяса, закалочвалася мука. Калі не было мяса, К. заскварвалі салам. Страва вядома на Пн і У Беларусі. 2) Тое, што і *крупнік*. 3) Густы, звычайна малочны, суп з прасяных, радзей з ячных круп. Вядомы ў Камянецкім Брэсцкім, Жабінкаўскім, Жыткавіцкім, Столінскім р-нах. Гавораць: «У гасцях — каша, а дома — кулеш, дык лепш».

**КУЛЖЫ́НСКІ** Рыгор Іванавіч [1838—1910(?)], беларускі этнограф і фаль-

кларыст. Скончыў Нежынскі ліцэй. З 1861 працаваў настаўнікам гімназій у Свянцянах, Мазыры, Гродне, інспектарам нар. вучылішчаў Гродзенскай, з 1869 — Мінскай губ., з 1875 дырэктар нар. вучылішчаў Варонежскай губ. Выступаў у абарону царызму і праваслаўя. Надрукаваў артыкулы «Пра зборнік заходнярускіх прыказак і прымавак» (Гродненские губернские ведомости. 1866. № 41, Виленские губернские ведомости. 1866. № 84), «Нататка пра гісторыю народнай паэзіі», «Пра этнаграфічныя звесткі, што датычацца Заходняй Расіі» (Гродненские губернские ведомости. 1867. № 21, 22), «Пра духоўныя простанародныя песні Паўночна-Заходняга краю», «Мінск губернскі» (Минские губернские ведомости. 1868. № 35; 1877, № 3), «Сцэны з беларускага быту» (Виленский вестник. 1873. № 115), «Гродзенскія пісьмы: [Беларускія паданні і песні пра святога Юр'я]», «Сяло Казанскае, былое Куродзічы, Рэчыцкага павета Мінскай губерні» (Вестник Западной России. 1865—66. Кн. 8, т. 3; 1865—66. Кн. 2, т. 1), «Батлейка» (Душеполезное чтение. 1873. № 12, т. 3) і інш. З 1883 выдаваў у Харкаве час. «Благовест», дзе ў 1885—86 апублікаваў «Успаміны пра Паўночна-Заходні край (1861—1874 г.)» і расказаў пра сваю дзейнасць на Беларусі ў 1861—74. Склаў рукапісны зб. «Песні, казкі і прыказкі Паўночна-Заходняга краю», куды ўвайшло больш за 500 твораў з Гродзенскай, Мінскай і Віленскай губ. (не збярогся), зб. «Простанародныя беларускія песні, запісаныя ў Мінскай губерні» (16 тэкстаў з нотамі, зберагаецца ў архіве Геаграфічнага таварыства СССР у Ленінградзе).

*В. І. Скідан.*

**КУЛЬ,** 1) тоўсты сноп жытняй няцёртай саломы, якая ўжывалася для пакрыцця стрэх, пляцення матаў на вокны і дзверы для ўцяплення хаты. 2) Вялікі мяшок з *рагожы* для солі, мукі, зерня, агародніны, вугалю і інш. Тэрмін «К.» у значэнні «рагожны мех» вядомы з 17 ст. У 18—19 ст. К., як ёмістасць для прадуктаў і інш. тавараў шырока выкарыстоўваўся пры транспарціроўцы грузаў на рачных суднах і плытах. Рагожныя К. былі таксама важным прадметам экспарту. Ткалі кулявую рагожу адпаведных памераў і гатунку: для мучных, саляных і інш. К. Найбольш пашыраны былі 2 віды мучных К.: пяцерыковыя (на 5 пудоў; дауж. 2 аршыны, шырынёй 22 вяршкі) і дзевяцерыковыя (на 9 пудоў; дауж. 3 і шырынёй 1,5 аршына). У 1-й пал. 20 ст. з пашырэннем прамысловага вырабу мяшкоў з пяньковай і баваўнянай тканіны рагожныя К. выйшлі з ужытку. 3) Даўняя адзінка вымярэння сыпных рэчываў, гал. чынам збожжа. Аб'ём неаднаразова мяняўся. У 18 ст. К. жыта раўняўся 8 пудам; у 19 ст. К. жыта — 9 пудам 10 фунтам, К. аўса — 6 пудам 5 фунтам. *Н. І. Буракоўская.*

**КУЛЬ,** частка шрагу *рыбалоўных прылад*, у якую трапляе рыба. У снасцях тыпу *невада* — проста сеткавы мяшок, у *венцерах, мярэжах* — сеткавы мяшок, нацягнуты на абручы. Унутры адно або два сеткавыя горлы, праз якія рыба заплывае ў К. Горла ўтрымліваецца ў адкрытым стане пры дапамозе шнуроў, што адыходзяць ад абручоў; у задняй частцы К. зацягваецца вяровачкай, як кісет.

**КУЛЬБА́КА,** палка для апоры пры хадзьбе. У некаторых мясцовасцях называлася кавенька, кульба. Рабілі з розных парод дрэва, часцей з ядлоўцу. Была без ручкі і з ручкай, часта вельмі мудрагелістай. Нярэдка К. ўпрыгожвалі разьбой, выпальваннем і інш.

**КУЛЬТ ПРО́ДКАЎ,** рэлігійнае шанаванне памерлых бацькоў і ўсіх родзічаў. Развіваўся як сямейны культ на стадыі распаду родавага ладу. Генетычна звязаны з першабытнымі анімістычнымі вераваннямі і ўяўленнямі аб продках як ахоўніках роду, нашчадкаў, гаспадаркі. Перажыткі і сляды К. п. захаваліся ў бел. святкаваннях *дзядоў, радаўніцы*, у пахавальных абрадах і звычаях (*памінкі)*, галашэннях. З К. п. звязаны і міфалагічны вобраз *дамавіка* як духа-ахоўніка хатняга ачага. У наш час традыцыйная памінальная абраднасць пераасэнсавана і набыла форму безрэлігійнага рытуалу ўшанавання памяці памерлых.

**КУЛЬТУ́РА ПАДКЛЁШАВЫХ ПАХАВА́ННЯЎ,** археалагічная культура; гл. ў арт. *Паморская культура.*

**КУМАВА́ННЕ** (ад лац. cum у саюзе), старадаўні абрад устанаўлення прыязных, сяброўскіх адносін. Называюць таксама кумленне. Спраўлялі яго пераважна ў канцы вясны — пач. лета на «зялёныя святкі» (*сёмуху)* ва ўсх. і цэнтр. частцы Беларусі (Магілёўшчына, Міншчына). Дзяўчаты ішлі ў лес, звязвалі галінкі бярозак («завівалі» іх), праходзілі парамі тры разы ўзад і ўперад пад завітымі ў вянок бярозкамі, спяваючы песню пра ўстанаўленне сяброўскіх адносін. Пасля гэтага елі абрадавую страву (яечню). Абрад поліфункцыянальны. У далёкім мінулым ён сімвалізаваў наступленне паўналецця, сталасці дзяўчат, пераход іх у групу дарослых членаў абшчыны (меў значэнне пасвяціцельнага абраду). Пазней стаў азначаць устанаўленне сяброўскіх, прыязных адносін паміж яго ўдзельнікамі — тымі, хто ў пары праходзілі пад завітымі бярозкамі. Зялёныя бярозкі былі сімваламі дзяўчат, а завіты вянок — іх дружалюбства, сяброўскага саюзу. Абрад сімвалізаваў і шанаванне бярозак, іх жыццёвай сілы, пажаданне добрага ўраджаю. Бярозкі завівалі «на годы добрыя, на жыта густое, на ячмень каласісты, на авёс расісты, на грачыху чорную, на капусту белую». Абрад выконвалі пасля заканчэння слубы. Жыццёвая моц бярозкі, лісце якой распускалася ў гэты час, на думку ўдзельнікаў абраду, магла плённа ўздзейнічаць на ўраджай. Як традыц. гульня-забава сустракаецца ў некаторых вёсках і ў наш час.

*М. Ф. Піліпенка.*

**КУМІ́РЫ,** драўляныя, каменныя або металічныя выявы старажытных язычніцкіх багоў; тое, што і *ідалы.*

**КУМПЯ́К,** мясны выраб са сцягна свіной тушы. Сцягно соляць сухой соллю або ў расоле, часам вэндзяць і вешаюць у халодным месцы. Мяса з К. ядуць сырым, вараць у баршчы, на вялікдзень запякалі ў хлебным цесце.

**КУМЫ,** хросныя бацькі, дзейныя асобы ў радзіннай абраднасці. Назва «хросныя бацькі» ўсталявалася з пашырэннем хрысціянства. У адносінах да дзіцяці яны выконвалі патранажныя функцыі. За К. бралі як сваякоў, так і чужых людзей, у Зах. Палессі — найчасцей блізкіх сваякоў з боку парадзіхі. Разам з *бабкай* кум і кума адыгрывалі вялікую ролю на *радзінах.* Кум звычайна разбіваў гаршчок з *бабінай кашай.* К. прысвечаны шматлікія традыцыйныя радзінныя песні, прыказкі і прымаўкі. К. памагалі адзін аднаму ў с.-г. работах, адзначалі разам святы. Звычайна К. не мянялі. Аднак, калі дзеці ў сям'і паміралі, тады бралі за К. маладых брата і сястру або т. зв. стрэчных («збожжых», «спатыканых»). У гэтым выпадку бацька нованароджанага выходзіў раніцай на перакрыжаванне дарог і запрашаў за К. першых, каго ўбачыць. Традыцыі кумаўства захоўваюцца. К. выконваюць ролю *названых бацькоў* («ганаровых», «парачоных») у сучасным абрадзе ўрачыстай рэгістрацыі нованароджаных. К. называлі сябе пэўны час пасля *кумавання* маладыя хлопец і дзяўчына. *Т. І. Кухаронак.*

**КУНТУ́Ш,** верхняе мужчынскае адзенне, якое апраналі на *жупан.* На Беларусь прыйшоў з Венгрыі праз Польшчу. Разам з жупанам стаў традыц. адзеннем заможных людзей. Шылі доўгім, ніжэй каленяў. Насілі звычайна расшпіленым, каб быў відаць жупан. Асаблівасць К.— разрэзаныя рукавы, якія свабодна звісалі або закідваліся на плечы. Рабілі К. з сукна, пазней з шоўку (часам падшывалі футрам) яркага, але цямнейшага за жупан колеру. Падпярazвалі тканым каляровым поясам.

**КУПА́ЛЛЕ,** старадаўняя абрадавая ўрачыстасць. Пад рознымі назвамі вядома ўсім індаеўрапейскім народам. У старажытнасці было прымеркавана да летняга сонцастаяння, святкавалася ў гонар сонца, якое ў гэты час дасягала свайго апагею. Адначалася як свята найвышэйшага росквіту жыватворных сіл зямлі, у першую чаргу расліннасці, збажыны. Характарызавалася комплексам абрадаў, павер'яў, любоўнай і аграрнай варажбой. Святкавалася К. ў ноч з 6 на 7 ліпеня. Яшчэ днём дзяўчаты ішлі на луг, у поле збіраць купальскія (святаянскія) зёлкі — багаткі, руту, браткі, папараць, васількі, купену і інш. Лічылася, што зёлкі, сабраныя на К., маюць асаблівую лекавую

моц. Частку іх пакідалі ў хаце на лекі, на ўжытак у ежу, некаторыя (ім надавалася ахоўнае значэнне) утыркалі ў сцены будынка, частку выкарыстоўвалі на вянкі для купальскага гадання. Цэнтральнае месца сярод абрадаў і гульняў К. займала купальскае вогнішча. Купальскія і падобныя ім агні, на думку А. Патабні, увасабляюць сонца, таму маюць сілу даваць ураджай і праганяюць смерць. Хлопцы загадзя рыхтаваліся раскладваць купальскі агонь. Для гэтага па ўсёй вёсцы, мястэчку збіралі старыя рэчы (паношаную вопратку, атопкі, старыя колы, клёпкі ад бочак, лоташнюю кудзелю) і вывозілі на абранае для ўрачыстасці месца: узлесак, паляну, высокі рачны бераг, выган, узмежак пры жыце. На К. моладзь звычайна вяртаўлялася з купальскімі песнямі, заклікала ўсіх ісці на гулянне. Пры агні гатавалі абрадавую вячэру: яечню, верашчаку, кулагу (страва з мукі), варэнікі. У старажытнасці купальскі агонь раскладвалі, тручы кавалкі дрэва адзін аб адзін. Адначасова ўздымалі на высокім шасце прамасленае запаленае кола, што, відаць, сімвалізавала сонца. Вакол купальскага агню моладзь вадзіла карагоды, пераскаквала цераз агонь, купалася ў рэчцы, качалася па расе (ачышчальная магія), варажыла на вянках, якія дзяўчаты і хлопцы пускалі па рачную плынь, загадваючы на будучага мужа і жонку, наогул замужжа. Нанач пад падушку клалі трыпутнік, сарваны на растайных дарогах, у надзеі прысніць суджанага. Пры агні спальваўся пучок ільну са словамі-заклінаннем: «Зарадзі, лён!» (прадуцыравальная магія).

Купальскія вераванні і легенды адлюстравалі міфалаг. аспект светапогляду стараж. чалавека. Многія з іх сведчаць пра паэтычнае ўспрыманне ім свету. У народзе верылі, што раз у год, якраз на К., а 12-й гадзіне ночы ў гушчары лесу зацвітае кветка папараці (гл. *Папараць-кветка*), здольная даць чалавеку, які сарве яе, празарлівасць. Паводле нар. павер'яў, рэкі ў купальскую ноч свецяцца асаблівым, прывідным святлом, дрэвы атрымліваюць дар мовы і нават могуць пераходзіць з месца на месца. Разам з тым К.— час разгулу змрочных сіл прыроды. Ведзьмы і ведзьмары нібыта імкнуцца адабраць у кароў малако, зрабіць *заломы*, шкоду ў жыце. Таму ў купальскую ноч рабілі розныя засцярогі, прыбягалі да ахоўнай магіі: кідалі ў жыта галавешкі з агнём, абтыкалі сцены хлява святаянскімі зёлкамі, у некаторых мясцовасцях праз купальскае вогнішча праганялі статак. Сведчаннем веры ў цудадзейную, ачышчальную моц купальскага агню было прасушэнне на ім сарочак хворага, паднашэнне да вогнішча малых дзяцей. Адна з прыяў веры ў незвычайнасць купальскай ночы — перакананне, што сонца ў канцы яе ўзыходзіць іграючы: дзеліцца на кругі, якія разыходзяцца, мігцяць і сыходзяцца зноў. Некаторыя купальскія вераванні, прыкметы мелі практычны гаспсэнс. Лічылася, напр., добрым знакам на К. пачаць касьбу (прайсці хоць першы пракос).

Купальская традыцыя вельмі старажытная. Вытокі яе — у родавым грамадстве. Самыя раннія пісьмовыя помнікі ўсх. славян адлюстравалі назву «купала». К. згадваецца ў Цвярскім летапісе 1175. Як каляндарнае азначэнне часу ўпамінаецца купальскае свята ў старaж. бел. граматах 14—15 ст. Хрысціянская рэлігія на працягу некалькіх стагоддзяў змагалася з купальскімі абрадамі і песнямі, імкнулася падмяніць гэту язычніцкую, паводле паходжання і характару, урачыстасць культам Іаана Прадцечы, святам у гонар яго, якое і стала адзначацца 24 чэрвеня с. ст. Намаганні адэптаў хрысціянства (у яго зах. і ўсх. адрозненнях) прычыніліся да таго, што ў назве свята, песнях, якія яго суправаджаюць, з'явілася здвоенае імя «Іван Купала», імёны Іван, Ян у значэнні купальскага дня. Сама ж купальская традыцыя на Беларусі добра захавалася да пач. 20 ст., а ў асобных рэгіёнах, асабліва на Падзвінні, пашырана і цяпер. Гэта — сведчанне пра яе багацце, развітасць, непаўторнасць як з'явы культуры. *А. С. Ліс.*

**КУРАКІ́**, кулінарны выраб. Называлі таксама басманы. У вараную, тоўчаную бульбу дадавалі трохі мукі, ляпілі маленькія піражкі, качалі іх у тоўчаным семі, пяклі на капусных лістах або на бляхе. Вядомы на Мядзельшчыне, Валожыншчыне.



Куратнікі.

**КУРА́ТНІК**, невялікая рубленая, прамавугольная ў плане, пабудова для курэй. Страха можа быць любой формы, матэрыял пакрыцця — салома, дор, гонта і інш. У адной са сцен, звычайна ля дзвярэй, невялікае акенца. На Магілёўшчыне і Віцебшчыне К. тынкуюць і бэляць. На Падняпроўі сустракаюцца К. ў выглядзе шатровай страхі, умацаванай на слупе. Пад парасонам страхі — *седала*, куды куры залазяць па драбінах.

**КУ́РНАЯ ХА́ТА**, жылая пабудова звычайна зрубнай канструкцыі. У мінулым асноўны тып жылля сялян. Першапачаткова аднакамернае жыллё невялікіх памераў (прыкладна $4\times5$ м) без сенцаў, з уваходам з тарцовага боку і курнай печчу без коміна. Невялікія дзверы (прыкладна 1,4 м вышынёю), маленькія прыземістыя акенцы. На працягу стагоддзяў К. х. задавальняла бытавыя і вытворчыя запатрабаванні селяніна і надзейна ахоўвала яго ад холаду. Тоўстыя дылі, пакладзеныя канцамі на сцены зруба, служылі стрaхой і столлю. Часам паверх дыляў насцілалі пласт дзірвану, каб лепш зберагчы цяпло. Для выхаду дыму рабілі *дымнік*. Унутраная планіроўка К. х. нескладаная і вызначалася ўстойлівасцю. Курная печ размяшчалася справа ці злева ля ўваходу і была звернута вусцем да акна ў падоўжнай сцяне. Будавалася печ на насціле з круглых бярвенняў ці дыляў, абмазаных глінай і ўкладзеных паверх бёлек, якія апіраліся на масіўныя падваліны. У больш позніх курных печах зрубную аснову рабілі з кансольнымі выпускамі верхніх вянцоў для прыпечка. Насупраць печы да сцяны мацавалася *паліца* для посуду. Ад печы да тарцовай сцяны ішоў насціл з дошак — пол, на якім спалі. Тут жа вісела прымацаваная да бэлькі *калыска*. Уздоўж сцен ставілі *лавы*. У процілеглым ад печы куце быў «чырвоны кут» — ганаровае месца хаты, дзе стаяў стол з пераноснымі *ўслонамі*. З 18 ст. К. х. пачалі выцясняцца т. зв. белымі хатамі з комінам. Да пач. 20 ст. курная печ толькі зрэдку сустракалася ў вясковых хатах на Палессі. *У. С. Гуркоў.*

**КУРЫЛО́ВІЧ** Ганна Мікалаеўна (н. 23. 9.1938, в. Загор'е Светлагорскага р-на Гомельскай вобл.), беларускі сав. этнограф. Канд. гіст. н. (1979). Скончыла БДУ (1966). У 1957—67 артыстка Дзярж. нар. хору БССР, з 1967 навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, промыслы і рамёствы. Аўтар кнігі «Беларускае народнае ткацтва» (1981), сааўтар прац «Беларускае народнае адзенне» (1975), «Змены ў побыце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі» (1976), «Помнікі народнай архітэктуры і побыту Беларусі» (1979), «Грамадскі, сямейны побыт і духоўная культура Палесся» (1987), «Палессе. Матэрыяльная культура» (1988). *Л. А. Суднік.*

**КУРЭ́НЬ**, збудаванне для адпачынку рыбакоў, лесарубаў, якія вялі промысел на значнай адлегласці ад месца жыхарства і затрымліваліся там працяглы час. У ім захоўвалі прадукты харчавання, запаснае адзенне. Рыбакі будавалі К. на ўзвышаных берагах непадалёку ад вады. На сошкі, укапаныя ў зямлю, клалі жэрдкі. Па перыметры ўтворанага каркаса прыстаўлялі ўшчыльную адна да адной драўляныя плашкі, калкі, якія пакрывалі сенам і абкладвалі дзёрнам. Формай К. нагадвалі піраміду або конус. У К. было 2 праёмы: адзін збоку, служыў уваходам (пры неабходнасці закрываўся плашкамі), другі ўверсе, для выхаду дыму. Вогнішча пасярэдзіне К. абмяжоўвалася квадратам, абкладзеным найчасцей каменнем. На зямлі каля

сцен рабілі насцілы, на якіх адпачывалі. Побач з К. рыбакі вялілі на жэрдках рыбу, падвешаную да жэрдак; у вадзе знаходзіліся скрыні для жывой рыбы (часам яе трымалі і ў невялікіх азярынках). Падобныя К. будавалі таксама паляўнічыя, сяляне, што касілі сена на аддаленых ад дому сенажацях.

*І. М. Браім.*

**КУСТ,** старажытны веснавы (познавеснавы) абрад. Называўся таксама ваджэнне куста. Прымяркоўваўся да другога дня *сёмухі*. Найб. пашыраны на Піншчыне, захаваўся ў жывым бытаванні. Выконвалі дзяўчаты. Самую юную, прыгожую прыбіралі кустом: кляновымі, ліпавымі ці бярозавымі галінкамі верхам уніз, звязанымі ў аснове; на галаву надзявалі вянок. «Дзявочае войска» на чале з К. па дзве ў рад (спачатку старэйшыя, потым падлеткі) абходзілі двары, спявалі куставыя песні. У іх велічалі куст, гаспадара, гаспадыню, іх дзяцей, жадалі добрага ўраджаю, здароўя. За песні атрымлівалі падарункі. Пасля заканчэння абраду раз рывалі К., галінкі і лісце бралі з сабой, сушылі. Лічылася, што лісцем К. можна лячыць скулы. Ваджэнне куста заканчвалася калектыўным застоллем і танцамі. Абрад К. генетычна звязаны з *культам продкаў* і культам раслін. У аснове яго — міфалагічнае ўяўленне пра плёнаабуджальную сілу К. Да яго звярталіся з просьбай, заклінаннямі паспрыяць дабрабыту ў гаспадарцы, каб радзілі «жыта, пшаніца і ўсякая пашніца». Верылі ў магічную сілу К. уплываць на жаданы шлюб (знайшло адбітак у песні «Каля куста сачавічанька густа»). Абрад блізкі да *калядавання* і валачобнага абраду (гл. *Валачобнікі*), аднак уступае ім у багацці і пышнасці рытуалу, асабліва каляднага, і песеннага суправаджэння.

*А. С. Ліс.*

**КУ́ТНІКІ,** катэгорыя збяднелых беззямельных сялян у 16—19 ст., якія не мелі ўласнай хаты і таму наймалі для жылля кут (адсюль і назва). Займаліся пераважна рамяством, промысламі, выконвалі работы па найму. Асн. іх павіннасцю быў грашовы чынш. У асобных уладаннях неслі дваровую службу (гл. *Бабылі*). У 19 ст. К. зліліся з асн. масай прыгонных сялян.

**КУ́ФАР,** скрыня, драўляная ёмістасць, у якой хавалі тканіны, адзенне, бялізну і каштоўнасці; від *мэблі*. У К. збіралі *пасаг* маладой, а ў час вяселля перавозілі ў дом маладога. Вядомы з часоў позняга сярэднявечча як сховішча каштоўнай цэхавай маёмасці. Мелі выгляд масіўнай нізкай драўлянай ці металічнай скрыні з плоскім векам, часта па-мастацку акаванай, забяспечанай унутраным замком складанай канструкцыі. У магнацкіх і мяшчанскіх інтэр'ерах — вялікія, драўляныя, з акоўкай па кантах, фарбаваныя ў чорны ці зялёны колер. У сялянскім інтэр'еры пашыраны з 19 ст., замяніў *кублы*. Выраб К. часта набываў характар промыслу. Іх рабілі з сасновых ці яловых дошак, на фігурных падстаўках-ножках, часта на драўляных ці каваных колцах, па баках мацавалі ручкі, на пярэдняй сценцы — унутраны замок ці зашчапку для вісячага. Часта К. аздаблялі мастацкай акоўкай у выглядзе жалезных ці бляшаных палос з фігурнымі краямі. Акоўку мацавалі на кантах, пярэдняй сценцы і веку (гл. ў арт. *Давыд-гарадоцкія куфры*). Пад уплывам зах.-еўрапейскіх барочных форм К. набылі пукатае века, часам звужаную ўнізе форму. Простая аднатонная афарбоўка саступіла месца дэкаратыўнай размалёўцы, гал. чынам фляндроўцы, якая імітавала каштоўныя пароды драўніны. З пач. 20 ст. ў многіх рэгіёнах пашыраны К. з мастацкай размалёўкай расліннага характару. На Зах. Палессі (Іванаўскі, Драгічынскі р-ны) перавагу аддавалі сакавітым малюнкам у выглядзе букетаў і гірляндаў кветак, якія кампанаваліся ў квадратах і прамавугольніках, утвораных паласамі акоўкі ці фляндроўкі. Малюнкі наносілі ад рукі, часам з дапамогай трафарэтаў. Багаццем кампазіцый, гармоніяй і сакавітасцю каларыстыкі вызначаюцца *агоўскія куфры*. На Гродзеншчыне і З Віцебшчыны пераважала «цацкаванне» — нанясенне ўзору на афарбаваную паверхню К. з дапамогай штампікаў з бульбы ці рэпы. Дробныя геаметрычныя і раслінныя матывы (зоркі, разеткі, лісточкі, крыжыкі) белага, жоўтага, чырвонага колераў наносіліся ў выглядзе палос уздоўж акоўкі ці кругоў між ёю на сінім або вішнёвым фоне. На У Беларусі на вішнёвым фоне К. малявалі прамую ці косую сетку з чорных палос, часам аздаблялі прадрапваннем у выглядзе геаметрычнага і расліннага арнаменту (гл. ў арт. *Чачэрскія куфры)*. К. (як і кублы) займалі важнае месца ў вясельнай абраднасці, што адлюстравана ў песенным фальклоры. Маці, а потым яе дачка збіралі ў К. пасаг («Што сяляначкі пралі, што мяшчаначкі ткалі, белыя лебедзі на моры бялілі, а сястрыцы ў куфар залажылі»). У час ад'езду маладая «дзялілася»: «Табе, мамка, уся паселенька, а мне, маладзе, скрыня ды й пасцеленька». На вясельным возе К. вязлі кубельнікі, якім наказвалі не згубіць «ні скрыні, ні пярыны, ні маладой гаспадыні». Пра маладога спявалі: «Яго коні каваныя, вязуць скрыні маляваныя». Ён жа павінен быў выкупіць К. («Скрыня сакоча. Чаго яна хоча? Паўтара залатога ад князя маладога»). Прысутнічаў К. у вясельных абрадах «засмальвання» і расплятання касы, у «пакладзінах» і інш. У сучасным вясковым побыце К. страціў сваю былую ролю. З 1950-х г. вытворчасць К. амаль спынілася. Паводле матываў дэкору традыцыйных К. сёння размалёўваюць маленькія сувенірныя куфэркі (Брэсцкая ф-ка сувеніраў, Жлобінская ф-ка інкрустацыі і інш.).

*Я. М. Сахута, А. Ю. Лозка.*



Куфэрак драўляны з акоўкай. 18 ст. Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў.



**Куфар.** Гродзенскі раён. Канец 19 ст.

**КУХАНЫ́,** здобнае салодкае печыва на содзе. Крутое цеста раскачваюць, рэжуць ромбамі, пякуць на бляхе, патэльні. Вядомы ў Цэнтр. і Усх. Беларусі.

**«КУ́ХАР»**, танец, падобны на рускі. Створаны на аснове нар. песні «Ухар-купец». Называецца таксама «Ухар», «Кухар-купец», «Ухар-купец». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Выконваецца ў стылі мясцовых харэаграфічных традыцый. Бытуе ў выглядзе імправізаваных сольных скокаў ці ствараецца па прынцыпу гарадскіх бытавых танцаў. У першым варыянце «К.» кожны ўдзельнік танцуе сваю харэаграфічную імправізацыю, выконвае розныя праходкі, прытупы, драбушкі, хлапушкі, а таксама прысядкі і вярчэнні ўнізе. У другім варыянце танец парны па форме, кананізаваны па кампазіцыі. Выконваецца па крузе і складаецца з рытмізаваных крокаў, прытупаў, вярчэння ў польцы. Танец у розных варыянтах пашыраны па Усх. Палессі. Музычны варыянт мелодыі зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Чэрыкаўскім р-не Магілёўскай вобласці. *М. А. Козенка.*

**КУХАРО́НАК** Таццяна Іванаўна (н. 7.8.1954, в. Клінок Чэрвеньскага р-на), беларускі савецкі этнограф. Кандыдат гіст. навук (1988). Скончыла БДУ (1981). З 1971 працуе ў Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе традыцыйную і сучасную сямейную абраднасць. Аўтар раздзелаў у кнігах «Грамадскі, сямейны побыт і духоўная культура насельніцтва Палесся» (1987), «Святы і абрады ў Беларускай ССР» (1988).

**КУЦЦЯ́**, традыцыйная абрадавая страва на *каляды* ў славян і інш. народаў; каша з тоўчаных (не сечаных) ячных круп (у некаторых народаў з зярнят пшаніцы); вячэра напярэдадні каляд, Новага года і перад *вадохрышчам* (на яе абавязкова гатавалася К.— сакраментальная страва). К. варылася з цэлых зярнят і была сімвалам несмяротнасці, вечнасці жыцця. На Беларусі ад каляд да вадохрышча спраўляліся тры К. Напярэдадні каляд К. спраўлялася з вял. урачыстасцю і называлася вялікай або поснай, бо ўсе стравы гатаваліся без мяса і жывёльнага тлушчу. Колькасць страў залежала ад заможнасці сям'і. У вечар перад Новым годам К. называлі багатай або скаромнай. На яе кожная гаспадыня старалася згатаваць як мага больш багатую мясную вячэру, каб сустрэць свята ў поўным дастатку і каб увесь год быў сыты. К. падавалася з *сытою*. К. перад вадохрышчам, як і напярэдадні каляд, гатавалася посная. На ўсе тры К. каша варылася ў адным і тым жа гаршку і з аднолькавай колькасці круп. Звараная К. перад заходам сонца ставілася на покуці. Каштаваць яе ў час гатавання і перад вячэрай забаранялася, а ў час абрадавай вячэры яе елі апошняй. На К. вял. значэнне надавалася прыкметам, гаданням, варажбе. З цягам часу ўсё гэта набыло характар забавы. На Міншчыне, Гродзеншчыне, на Палессі К. называлі яшчэ абтоўчаны ў ступе ячмень. *А. І. Гурскі.*

**КУЧ** (Kucz) Мар'ян, польскі фалькларыст і этнограф. У 19 — пач. 20 ст. змяшчаў публікацыі ў польскім перыядычным друку. У штогодніку «Materiały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne» (Матэрыялы антрапалагічна-археалагічныя і этнаграфічныя. 1900. Т. 4) надрукаваў артыкул «Народныя прыказкі з ваколіц Віцебска, Магілёва, Смаленска і Арла, якія тычаць некаторых мясцовасцей у Расійскай дзяржаве», у якой 71 нар. выраз на бел. і рускай мовах. Ва ўступнай частцы да артыкула даў аб'ектыўнае апісанне жыцця, звычаяў і светапогляду бел. і рускага насельніцтва. *А. Ф. Літвіновіч.*

**КУ́ЧА**, спосаб выпальвання драўнянага вугалю для *кавальства*. Называлася таксама капа, мулёр. Кучавы спосаб сухой перагонкі сасны на Беларусі вядомы з 17 ст., у 19 ст. быў асноўным спосабам выпальвання вугалю. Рабілі пераважна стаячыя К. (дровы ўкладвалі стаўма ў выглядзе конуса), якія мелі аб'ём ад 15 да 400 м³; ляжачыя К. (дровы ўкладвалі гарызантальна, штабелем) былі большых памераў — да 1000 м³. Для ўкладкі К. рыхтавалі ў лесе спец. пляцоўку (ток). Палены даўжынёю да 1 м ставілі па кругу шчыльна адно да аднаго, звычайна ў 2 ярусы.

Зверху накладвалі дробныя дровы. Паверхню К. абкладвалі хваёвымі галінамі і дзёрнам, засыпалі зямлёй і ўтрамбоўвалі, каб не было доступу паветра. Адтуліны пакідалі толькі ўнізе і ўверсе К., каб хутчэй разгарэліся дровы, потым іх закрывалі. На працягу 1—2 тыдняў рабочыя-вугляпалы рэгулявалі працэс гарэння. Тушылі агонь, засыпаючы зямлёй. Праз двое — трое сутак астылую К. разграбалі спец. лапатай з доўгім дзяржаннем і даставалі вугаль. *Н. І. Буракоўская.*

**КУ́ЧКІ**, адна з форм укладкі снапоў пры сушцы ў полі. У К. звычайна састаўлялі снапы грэчкі, аўса, ільну (10—12 конусападобна расстаўленых снапоў, адзін насупраць другога). Часам скошаную грэчку не звязвалі ў снапы, а збіралі адразу ў К. Пры гэтым верх К. сціскалі рукамі і атрымлівалася конусападобная форма.

**КУШНЕ́РСТВА**, промысел па апрацоўцы аўчын і шкурак пушных звяроў. У нар. К. галоўнае месца займаў выраб аўчын для пашыву зімовага адзення — кажухоў, паўкажухоў, шапак. Апрацоўка шкурак упаляваных пушных звяроў (зайца, ваверкі, лісы, куніцы, тхара і інш.) мела другараднае значэнне. Футры выкарыстоўваліся для шапак, каўнераў. Тэхналагічны працэс традыцыйнага К. уключае некалькі паслядоўных аперацый (адмочванне, мяздрэнне, квашанне, мякчэнне, дубленне). Адмочаную ў вадзе авечую шкуру ачышчалі ад мяздры (мяздравалі) на нахіленай паўкруглай дошцы на дзвюх ножках *(калодзе)* звычайнай касой, выкарыстоўвалі і скоблю (струг). Пасля прасушвання шкуру заквашвалі (каб яе размякчыць і засцерагчы ад гніення) у «квасе» — кіслым растворы жытняй ці аўсянай мукі з солю. Вядомы два спосабы квашання: акуначны («акун»; акуналі ў чан з хлебным растворам) і намазны («намазь»), калі *бахтарму* намазвалі кіслым цестам — рошчынай. Шкуры мякчылі драўляным або жалезным *крукам* (ключом). Дубленне аўчын пачало практыкавацца з 1830-х г., аднак пашырылася толькі ў канцы 19 ст. Нават у пач. 20 ст. побач з дубленымі кажухамі светла-карычневага колеру шырока бытавалі белыя нядубленыя (ад намакання і вільгаці яны пры высыханні станавіліся цвёрдымі і ломкімі, таму селянін паверх нядубленага кажуха надзяваў зімой суконную світу або палатняны «насоў»). У пач. 20 ст. аўчыны пачалі фарбаваць хімічнымі рэчывамі ў карычневы ці чорны колеры. Ідэнтычныя былі асн. тэхналагічныя прыёмы і пры апрацоўцы шкурак пушных звяроў. Аднак прылады працы мелі некаторую спецыфіку. Для сушкі і расцягвання шкурак ужывалася дошка-канёк, для мяздрэння, акрамя звычайнай касы,— каса з донцам (сядзеннем) або галіца. Пасля Кастр. рэвалюцыі вытворчасць бытавала ў выглядзе хатняга промыслу, арцеляў і дзярж. прадпрыемстваў. У гады першых пяцігодак створана дзярж. футравая прамысловасць, дзе выкарыстоўваліся лепшыя нар. традыцыі. У пасляваенны перыяд кушнерскае рамяство прыйшло ў заняпад. У 1980-я г. ў рэспубліцы дзейнічаюць буйныя прадпрыемствы — Віцебскі футравы камбінат, Бабруйская футравая фабрыка і інш. У наш час у некаторых раёнах мясцовыя жыхары выраблываюць аўчыны і футры на асабістыя патрэбы. *Н. І. Буракоўская.*

**КУШНЯРЫ́**, а ў ч ы н і к і, рамеснікі, якія апрацоўваюць аўчыны і шкуркі пушных звяроў (гл. *Кушнерства*).



**ЛА́ВА**, даўні від народнай *мэблі*. Масіўная доўгая шырокая дошка, замацаваная на калодках ці ножках. У хаце звычайна былі 2 нерухомыя Л. уздоўж сцен, якія сыходзіліся на покуці. Калі сцены бяліліся, Л. маглі мець спінку (з адной дошкі ці наборную), часам упрыгожаную разьбой. З канца 19 ст. Л. саступіла месца рухомай мэблі (*канапам, крэслам* і інш.) і часта ўжывалася паралельна з імі. У наш час выйшла з ужытку.



Лазавік.



Лазні. Вёска Ельня Краснапольскага раёна.

**ЛА́ВА,** 1) назва звяна плыта ў басейне Зах. Дзвіны. 2—4 Л. злучаліся ў плыт — гонак. 2) Назва плыта на Бярэзінскай воднай сістэме. Даўжыня 40—60 м, складаўся з 5 *глейнаў*.

**ЛАДДЗЯ́,** старажытнае рачное і марское судна ўсходніх славян. Шырока бытавала на тэр. Беларусі. На Л. плавалі па Дняпры ў Візантыю яшчэ ў 7—10 ст., на іх перавозілі грузы па «шляху з варяг у грэкі». Караваны Л. спускаліся па Дзясне, Прыпяці, Дняпры ў Кіеў. Паводле сведчання Канстанціна Багранароднага, каркасы Л. выраблялі на верхнім Дняпры і сплаўлялі да Кіева, дзе іх абсталёўвалі вёсламі і ветразямі. Для плавання па Чорным моры Л. ў вусці Дняпра дадаткова абсталёўваліся, забяспечваліся прадуктамі харчавання і зброяй. Вялікая Л. змяшчала 40—60 і нават 100 чал. Канструкцыйна яна ўяўляла сабою аднадрэвы човен, найчасцей — з дашчанымі набоямі па баках для павелічэння памераў. З 12 ст. Л. мела палубу. Кіравалася рулявымі вёсламі на карме і носе, рухалася з дапамогай грабных вёслаў і ветразя. Грабцы на Л. называліся ладзейшчыкамі, ладзейнікамі. Тэрмін «Л.» выйшаў з ужытку ў 14 ст. ў сувязі са з'яўленнем тэрміна «судна». *Н. І. Буракоўская.*

**ЛАЗАВІ́К,** *вулей*, плецены з суцэльных неакораных дубцоў лазы. Сценкі Л. з абодвух бакоў абмазвалі глінай, перамешанай з сухім конскім гноем і заціралі сумессю з гліны і рачнога глею (што засцерагала вулей ад дажджу і вільгаці). Тэхналогія ўтрымання пчол у Л. і догляд за імі тыя ж, што і ў *калодах*. Выкарыстоўваліся гал. чынам для часовага ўтрымання пчол.

**ЛАЗА́НКІ,** даўняя мучная страва. На Л. крута замешвалі цеста з пшанічнай, жытняй або грэцкай мукі, тонка раскачвалі, рэзалі на кавалкі (квадраты ці трохвугольнікі), варылі, адцэджвалі або вымалі лыжкай, залівалі салам, алеем з цыбуляй ці смятанай, у пост — цёртым макам, тоўчаным семем, размятымі ягадамі. Шырока вядомы ў Браслаўскім, Мядзельскім, Ваўкавыскім р-нах, часткова на Магілёўшчыне, Цэнтр. і Усх. Палессі. У зах., цэнтр. частцы Беларусі, на Магілёўшчыне Л. пяклі і называлі іх ламанцамі. Рабілі з пшанічнай мукі («праснаком») у форме «кантовых» кавалачкаў. Елі з цёртым макам, семем, звычайна на посную *куццю*. *Г. Ф. Вештарт.*

**ЛА́ЗНЯ,** спецыяльная пабудова, дзе мыюцца і парацца. На Беларусі вядома з старажытных часоў. Будавалі Л. з тонкага бярвення з 2-схільнай страхой і 1—2 акенцамі ў сцяне. Для ўтрымання цяпла столь (з жэрдак, аполкаў) засыпалі зверху кастрыцай, глінай або пяском. Унутры ўздоўж сцен стаялі лаўкі, каля печы — палок. Печ, звычайна каменку з круглым каменнем наверсе (для атрымання пары), палілі па-чорнаму. З пач. 20 ст. Л. робяць з комінам. У печ умуроўваюць катлы для вады. На Беларусі Л. звычайна будавалі з прылазнікам (прымальнік, прымыльнік). Індывідуальныя Л. з даўніх часоў найб. пашыраны на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. У наш час індывідуальныя лазні замяняюць грамадскімі.

**ЛА́ЗЬБЕНЬ,** лубяны посуд з векам (часам з мяккім палатняным дном) і почапкай для складвання мядовых скрылёў у час медазбору. Называўся таксама лабзень, лубачка. У некаторых мясцовасцях Л. выступаў у якасці адзінкі падатковага абкладання (сяляне Слонімскага старостава ў 16—17 ст. за карыстанне бортнымі дрэвамі ў скарбовым лесе плацілі 25 грошаў з Л.). У наш час некаторыя пчаляры карыстаюцца Л. пры падборцы мёду.

**ЛА́ЗЬБІНЫ,** частаванне ў дзень асноўнага медазбору. У мінулым звычай быў пашыраны сярод пчаляроў, якія трымалі супольных пчол. На Л. запрашаліся сваякі, сябры, бліжэйшыя суседзі. За святочны стол садзіліся пасля падрэзкі і размеркавання мёду паміж супольнікамі. За бясядай абмяркоўвалі гаспадарчыя справы па ўтрыманні сябэрных пчол, вызначалі абавязкі кожнага супольніка на наступны год, дзяліліся навінамі, спявалі песні. З дакладнай этнаграфічнай верагоднасцю Л. апісаў Я. Колас у паэме «Новая зямля» (раздзел «Надгляд пчол»). *С. Ф. Цярохін.*

**ЛА́ЙБА,** хадавое пласкадоннае судна з парусам, без палубы і даху. Нос і карма завостраны. Даўжыня 25—30 м, шырыня 4—5 м, грузападымальнасць 24—80 т. Л. вядомы з 15 ст., спачатку — лёгкія ўстойлівыя лодкі. Хадзілі па Зах. Дзвіне, Віліі і ў верхнім цячэнні Дняпра. З цягам часу Л. ўдасканальваліся і павялічваліся ў памерах. З сярэдзіны 19 ст. Л. паступова выцясняці іншыя віды суднаў (у 1880—90-я г. складалі 63 % рачнога флоту Зах. Дзвіны). Шырока выкарыстоўваліся да пач. 20 ст. *Н. І. Буракоўская.*

**ЛАМА́НЦЫ,** даўняя мучная страва; гл. ў арт *Лазанкі*.

**«ЛАНЦУ́Г»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$, $^4/_4$. Тэмп ад павольнага да ўмерана хуткага. Выканаўцы (мужчыны і жанчыны) браліся за паднятыя ўгору рукі і станавіліся кругам (часам паўкругам ці лініяй). Той, хто вадзіў, не разрываючы ланцуг з рук, праходзіў (а за ім і астатнія танцоры) праз «вароты» — пад рукамі апошняй пары. Апошні выканаўца, калі ўсе праходзілі пад яго рукой, паварочваўся на месцы, а сваю правую руку, сагнутую ў локці і злучаную з рукой партнёра, клаў далонню на сваё левае плячо. Ланцужок тым часам па чарзе праходзіў пад рукамі наступных пар, і паступова кожны выканаўца прымаў падобную позу. Калі ўсе танцоры пераплятаіся рукамі і выстройваліся ў адну лінію, той, хто вадзіў, пачынаў рухацца ў адваротным парадку — «расплятаў ланцуг» — пакуль не выводзіў усіх на зыходную пазіцыю. Сустракаецца «Л.» як адна з фігур кадрылі. Напр., у в. Чарнава Чэрвеньскага раёна ў калене «Л.» выканаўцы станавіліся ў 2 рады (юнакі насупраць дзяўчат). Юнакі падыходзілі да дзяўчат, выбіралі партнёрку, выконвалі павароты ў парах на 360°, а калі вярталіся на месца, 2 разы прытупвалі нагой, дзяўчаты па-

варочваліся вакол сябе. Потым калена «Л.» паўтаралася, але са зменай партнёраў. «Л.» бытуе ў Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай абл. *С. В. Гуткоўская.*

**ЛАПА́ТА**, прылада, з дапамогай якой саджалі цеста ў печ і даставалі хлеб з печы, падграбалі на таку і перамешвалі збожжа, падграбалі і раўнялі бульбу ў буртах. Хлебная Л. мела звычайна прамавугольную або круглаватую плоскасць даўжынёй 35—50 і шырынёй 25—30 см і доўгае (110—135 см) дзяржанне дыяметрам 3,3—3,5 см. Рабілі яе з дошкі звычайна ліставых парод дрэва. Каб цеста лягчэй ссоўвалася на чарэнь, краі Л. рабілі танчэйшымі. Перад тым, як саджаць цеста ў печ, гаспадыня пакрывала Л. хрэпавым, кляновым ці дубовым лісцем, аерам і пасыпала зверху мукой. Захоўвалі хлебную Л. ў варыўні або ў каморы. Л. для перамешвання збожжа мела неглыбокае авальнае выдзеўбанае дно. Вышыня Л. з дзяржаннем 155—160 см (даўжыня рабочай часткі — да 65 см, шырыня 25 см). Вышыня Л. для падграбання бульбы 100—103 см, шырыня 20—22 см, дыяметр дзяржання 3,2—3,5 см. *А. Ф. Лігвіновіч.*

і культуру, гіст. і этнагр. традыцыі. Значную ўвагу аддаваў міжэтнічным адносінам у Вял. кн. Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Распрацоўваў пытанні паходжання і гісторыі шляхты, дзяржаўна-прававога становішча Вял. кн. Літоўскага пасля Люблінскай уніі 1569 і інш. У яго працах вялікі фактычны матэрыял, заснаваны на вывучэнні шырокага кола гіст. крыніц.

*Тв.*: Литовский статут 1588 года. Т. 1—2. Каунас, 1934—38. *І. У. Чаквін.*

**ЛАПУ́Н**, печыва з квашанага цеста ў выглядзе тоўстага бліна. Камяк цеста расплясквалі па патэльні, насыпалі соллю, кменам, макам. Пяклі пры агні, на гарачым вуголлі. Спажывалі за снеданнем, бралі ў поле. Часам намазвалі слоем тварагу, смятанай, цёртым макам. Такі Л. пасылалі сваякам у якасці гасцінца, бралі з сабой у адведкі да парадзіхі. Вядомы пераважна на Віцебшчыне. Падобны да *скавародніка, праснака.* *Г. Ф. Вештарт.*

**ЛА́ПЦІ**, традыцыйны сялянскі *абутак*, плецены з *лыка* (лазовага, ліпавага), пяньковых або льняных вітушак ці тонкіх вяровачак. Лыка для Л. дралі ў маі — чэрвені, нарыхтоўвалі таксама

**ЛАПЦІ**



Лазьбень.



Лапата.



Лапці: 1 — шчарбакі; 2 — зрачыя; 3 — пахлапні; 4 — кавярзні.

**ЛАПО́** Іван Іванавіч (29.8.1869 — 23.12.1944), гісторык. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1892). Праф. Тартускага (1905—19), Каўнаскага (1933—40), Вільнюскага (1941) ун-таў. У 1921—33 жыў у Празе. Асн. працы прысвечаны гісторыі Вял. кн. Літоўскага, рус.-літоўска-польск. і бел.-літоўска-польск. дзяржаўна-паліт. і этнакультурным сувязям у 14—18 ст. Распрацоўваў пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі ўсх. славян (у т. л. і беларусаў) і інш. народаў Усх. Еўропы. Складванне бел. народнасці, на яго думку, праходзіла ў 14—16 ст., калі актывізаваліся працэсы этнічнай кансалідацыі нашчадкаў стараж. крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Сярод прыкмет, якія характарызавалі этнічныя асаблівасці беларусаў у эпоху феадалізму і больш позні час, выдзяляў мову, побыт

луццё — тонкія ліпавыя жэрдкі з карой. Лыкавыя скруткі вешалі ў клецi, на гарышчы хаты; перад выкарыстаннем іх размочвалі ў цёплай вадзе (каб былі эластычнымі), луццё распарвалі ў печы і здымалі з яго лыка. У залежнасці ад тэхнікі вырабу вылучаліся 2 тыпы Л.: прамога (пашыраны паўсюдна) і касога (на У Беларусі) пляцення. Л. прамога пляцення падзяляліся на некалькі відаў. Найбольш пашыранымі былі кавярзні (глухія Л., слепакі) — Л. з глыбокім закрытым наском (галоўкай) і запяткам. На Віцебшчыне, часткова Магілёўшчыне плялі шчарбакі (бяспятнікі) — неглыбокія (амаль адна падэшва) Л. без галовак (замест іх спераду былі дзве шырокія лыкавыя пятлі) і запятак, з кожнага боку — пара вузкіх петляў (заборнікі) для прадзявання *абор.* Шчарбакі насілі пераважна ўлетку на палявых работах. На Палессі, Пд Гродзенскай і Мінскай губ. бытавалі т. зв. зрачыя

Л., у якіх насок пасярэдзіне зверху быў адкрыты — «вока» (яго стварала адсутнасць пярэдняга вушка — стракі). Л. прамога пляцення пачыналі плесці з наска (толькі шчарбакі з пяты). У бакавыя вушкі (курцы, куракі) устаўляліся завостраныя з аднаго канца палачкі (сугакі, занозы), падэшву Л. для моцнасці падплякалі лыкам з дапамогай жалезнага ці касцянога кручка (спіца, спічук, качадык, падплётка). Зрэдку ніз Л. падшывалі скурай. На Падняпроўі і Паазер'і бытавалі Л. прамога пляцення з пяньковай вяроўкі. Л. касога пляцення — пахлапні (пахрасні) — былі пашыраны на бел.-рус. памежжы і лічацца рус. запазычаннем. Мелі глыбокія круглыя насы, высокія бакі і запяткі. Пры іх вырабе

вузкія, ачышчаныя ад кары палоскі лыка шчыльна падганялі адна да другой; плялі на драўлянай калодцы па памеры нагі. Падэшву падплятаді вітушкамі пянькі ці тонкімі вяровачкамі. Пахлапні часам выраблялі рамеснікі на заказ ці на продаж. Яны лічыліся святочным абуткам, насілі іх па некалькі гадоў. У 19 ст. на З Беларусі былі пашыраны скураныя Л.— *пасталы*.

Выраб Л. быў пераважна мужчынскім заняткам (іх плялі ў вольны ад работы час, у зімовыя вечары і інш.). Л. насілі мужчыны і жанчыны, дарослыя і дзеці на працягу ўсяго года. Іх надзявалі на палатняныя анучы, зімой — на суконкі. Дробная шляхта замест ануч ужывала шарсцяныя панчохі.

*Н. І. Буракоўская.*

**ЛАСІЦКІ** (Łasicki) Ян [1534 (?) — пасля 1599], польскі гісторык, бібліёграф, рэлігійны дзеяч. У 1556—61 вучыўся ў ун-тах Страсбура, Жэневы, Лазаны, Цюрыха, Парыжа, Падуі і інш. Займаўся кнігазнаўствам, напісаў некалькі прац па гісторыі вывучэння рэлігіі (асабліва кальвінізму). З 1581 у Вільні. Апошнія гады жыцця правёў у Заслаўі каля Мінска, цікавіўся этнаграфіяй народаў, якія насялялі Рэч Паспалітую, тэорыяй культуры. Пісаў на лац. мове. Аўтар працы «Пра рэлігію, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў і татараў...» (1582), у якой апісваюцца (часам з акцэнтацыяй увагі на негатыўным) сямейныя абрады, нар. адзенне, стравы і інш. бакі матэрыяльнай культуры беларусаў, а таксама асаблівасці архітэктуры Полацка, Вільні і інш. гарадоў. Яго твор «Пра багоў самагітаў, іншых сарматаў і несапраўдных хрысціян» (1615) дае шырокае ўяўленне пра свет язычніцкіх вераванняў жыхароў тагачаснай Літвы.

*Літ.:* Barycz H. Jan Łasicki: Studium z dziejów polskiej kultury naukowej XVI wieku. Wrocław etc, 1973. *У. А. Васілевіч.*

**ЛА́ТА**, традыцыйная рыбалоўная снасць: аднасценная сетка, прызначаная для лоўлі рыбы на хуткім цячэнні. Называлася таксама сцяна. Па баках сеткі — дзве палкі, да якіх прывязвалі вяроўкі. Аснашчалася паплаўкамі і грузілам так, каб не тануда на дно. У час руху ў вадзе Л. прымала форму жолаба, каля задняй сцяны якога збіралася рыба. Летам Л. рыбачылі як падвалокай, зімой выкарыстоўвалі як *зімовы невад*. Каб праверыць улоў, снасці выцягвалі на бераг. Выкарыстоўвалі Л. на рэках Брэстчыны і Гродзеншчыны.

**ЛАТУ́ШКА**, латка, 1) традыцыйны ганчарны выраб; глыбокая гліняная пасудзіна з шырокімі тулавам і вусцем. У Л. смажылі і тушылі мяса, бульбу, пражылі гарох, гатавалі смажаніну, яечню, кулеш і інш., нярэдка выкарыстоўвалі замест сталовай міскі для вадкіх страў, разліўкі студзіны. Назва «латка» сустракаецца ў помніках стараж.-рус. літаратуры, старабеларускіх пісьмовых крыніцах. У канцы 19—1-й пал. 20 ст. на Беларусі былі пашыраны Л. трох разнавіднасцей: у паўн. і зах. раёнах — прамасценныя з круглым і падоўжаным (авальным) дном, на Падняпроўі — з пукатымі сценкамі накшталт міскі. Выраблялі Л. з фармовачнай масы павышанай вогнетрываласці (гліна з дамешкам жарствы ці пяску). Пасля абпальвання гартавалі ў *абвары*. На Падняпроўі рабілі таксама паліваныя Л. Доўгія Л. фармавалі ў тэхніцы налепу на дашчанай падстаўцы. З масавага ўжытку Л. выйшлі ў 1-й пал. 20 ст. 2) Кароткая *світка* ў паўн.-зах. Палессі.

*С. А. Мілючэнкаў.*

**ЛА́ТЫ**, рашэціны, жэрдкі, да якіх мацуецца пакрыццё *страхі*. Кладуць Л. ўпоперак *кроквеў (ключоў)*. Даўней іх прывязвалі да кроквеў (ключоў) лазой або прыбівалі тэблямі, цвікамі; да Л. саламянымі жгутамі прывязвалі пакрыццё з саломы ці чароту; гонт і чарапіцу прыбівалі цвікамі. У наш час бляху, шыфер прыбіваюць цвікамі.

**«ЛАТЫ́ШКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. Яго танцавалі яшчэ ў канцы 19 ст. і да сярэдзіны 20 ст. Кампазіцыя выконваецца на 16 тактаў, пад любую мясцовую польку. У танцы ўдзельнічае неабмежаваная колькасць пар. Выканаўцы бяруцца за рукі і становяцца ў круг (дзяўчаты перад хлопцамі). Потым усе ўдзельнікі працяглы час рухаюцца па крузе (супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі) лёгкім бегам з адкідваннем ног назад, які рытмічна чаргуецца з бегам з акцэнтам на адну нагу. Прыпыніўшыся, робяць два прытупы адной і той жа нагой з аднлачасовым паўпрысяданнем (кожны прытуп на адзін такт). Потым, адхінуўшыся адзін ад другога, двойчы пляскаюць у далоні. Гэтыя ж рухі ўдзельнікі паўтараюць і ў другі бок. Затым танец пачынаецца спачатку. Зафіксавана ў Ельскім, Петрыкаўскім і Жыткавіцкім р-нах.

*М. А. Козенка.*

**ЛАТЫШЫ́**, нацыя, асноўнае насельніцтва Латвійскай ССР (1,34 млн. чал.; 53,7 %). Усяго ў СССР 1,44 млн. чал., з іх у БССР — 2617 чал. (дадзеныя перапісу 1979). Гавораць на латышскай мове. Жывуць таксама за мяжой (у краінах Зах. Еўропы, ЗША, Канадзе, Аўстраліі).

У этнагенезе Л. удзельнічалі балцкія і фіна-угорскія плямёны. У 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. аформіліся тыя этнічныя аб'яднанні, якія пазней утварылі латышскую народнасць: куршы, латгалы, земгалы, селы, лівы. Кансалідацыя латышскай народнасці закончылася да пачатку 17 ст. У 19 ст. фарміруецца латышская нацыя.

Этнакультурныя сувязі бел. і латышскага народаў маюць даўнія традыцыі, асабліва ў пагранічных раёнах. На тэрыторыі, дзе жылі латгалы, знаходзіўся стараж. горад Герцыке (належаў Полацкаму княству), там і існавалі групы ўсх.-слав. насельніцтва. У 13 ст. жыхары Полацкай зямлі разам з латгаламі і інш. плямёнамі змагаліся супраць нямецкіх рыцараў, што ўварваліся ў Прыбалтыку. Перасяленне Л. на ўсх. і паўн.-ўсх. бел. землі пачалося ў 18 ст. Найбольш інтэнсіўна працэс ішоў у 1860—80-я г.: у 1870 на Беларусі было 800—900 латышскіх перасяленцаў, у 1877—83 у Віцебскай губ. Л. складалі 51,5 % усіх перасяленцаў. Асядалі і ўтваралі вёскі (Магілёўшчына), хутары і невялікія пасёлкі (Віцебшчына). У 1897 шматлікія групы Л. жылі ў Віцебскім (каля 4 тыс. чал.), Полацкім (каля 1,7 тыс.), Аршанскім (да 3,7 тыс.) і Быхаўскім (каля 1 тыс. чал.) паветах. Пераважная большасць веруючых Л. на Беларусі былі лютэране, частка — каталікі і праваслаўныя. У пач. 20 ст. ў Лёзне дзейнічала латышскае праваслаўнае брацтва. У час 1-й сусветнай вайны колькасць Л. на Беларусі павялічылася (больш за 20 тыс. чал.), пасля грамадзянскай вайны паменшылася. Паводле перапісу 1926 Л. на БССР 14 тыс. чал (у Віцебскай акрузе 6,8 тыс. чал., Полацкай — 2 тыс., Магілёўскай — больш 1,8 тыс.). Этнічныя групы па 600—800 чал. існавалі ў Магілёўскай і Бабруйскай акругах. Асноўны занятак Л., якія жылі ў сельскай мясцовасці Беларусі, — земляробства, жывёлагадоўля, было пашырана садаводства, развіты розныя віды промыслаў (півараэнне), рамёстваў (пераважна ткацтва). Вырабы латышскіх ткачых і рукадзельніц адзначаны на Усебел. выстаўцы гаспадарчых і культурных дасягненняў нацменшасцей БССР (ліст. 1927).

З улікам этнічнай спецыфікі право-



Латушкі.

дзілася работа сярод латышскага насельніцтва ў БССР. У 20-я г. пры ЦК КП(б)Б існавала Латышскае бюро. Працавалі латышскія школы, рабочыя клубы (Віцебск), секцыі пры клубах, хаты-чытальні. Культурна-асветнай работай кіравала Латышская секцыя Нар. камісарыята асветы БССР. На латышскай мове выходзіла літаратура, Мінская радыёстанцыя штотыднёва трансліравала перадачы. У раёнах кампактнага пражывання латышскага насельніцтва ў 1920—30-я г. існавалі нацыянальныя латышскія сельсаветы (Быхаўскі, Лёзненскі, Глускі, Клімавіцкі, Ушацкі р-ны). На аснове латышскіх калоній былі створаны нацыянальныя латышскія калгасы (13 у 1934), а таксама інтэрнацыянальныя калгасы з пераважнай большасцю латышскага насельніцтва. Вывучэннем гісторыі латышскага перасяленчага руху, матэрыяльнай і духоўнай культуры Л. на Беларусі займалася латышская камісія Інбелкульта (з 1927, пазней АН БССР), з 1929 латышскі сектар АН БССР, з чэрв. 1933 латышская секцыя Ін-та нацменшасцей АН БССР (старшыня К. Шкільтэр). У 1929 апублікавана «Праграма даследавання латышскіх калоній», якая прадугледжвала збіранне і вывучэнне этнагр. і фальклорных матэрыялаў. У 1929—30 былі наладжаны экспедыцыі ў раёны кампактнага пражывання Л. на Віцебшчыне і Полаччыне. На аснове матэрыялаў экспедыцыі Шкільтэрам апублікаваны працы «Латышскія калоніі на Беларусі» (1931), «Латышскі селянін на Беларусі да і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі» (1935). Супрацоўнікі латышскай секцыі распрацоўвалі пытанні этнагенезу Л., вывучалі іх мову на Беларусі. У манаграфіі Шкільтэра «Латгальскае нацыянальнае пытанне» (1934) асвятляліся пэўныя аспекты фарміравання латышскай нацыі.

Важнай рэаліяй бел.-латышскіх кантактаў у 1920—40-я г. з'явілася існаванне ў Латвіі бел. этнічнай групы (у 1920—79,5 тыс. чал., у 1925—38 тыс.). Беларусы жылі гал. чынам у прымежных мясцовасцях Латгаліі і ў Ілукстэнскім пав. Земгаліі. Мелі да 40 пачатковых школ (1927), гімназіі (Даўгаўпілс, Лудза, Рыга), настаўніцкія курсы і клуб «Беларуская хата» (Рыга), выходзіла газета «Голас беларуса». Дзейнічалі бел. культурна-прасветнае т-ва «Бацькаўшчына», Бел. тэатральнае т-ва, Т-ва бел. настаўнікаў, Бел. нар. тэатр, Бел. выдавецтва ў Латвіі, Бел. аддзел пры Мін-ве асветы Латвіі і інш.

У 30—40-я г. колькасць Л. на Беларусі значна паменшылася. Пасля Вял. Айч. вайны адбывалася міграцыя часткі Л. з БССР у Латв. ССР, на тэр. БССР ідзе пастаяннае перасяленне пэўнай колькасці Л. з Латв. ССР. З канца 50-х г. колькасць Л. у БССР была стабільнай (2631 чал. у 1959, 2660 у 1970, 2617 у 1979, дадзеныя перапісаў). У 1970 лічылі роднай мовай латышскую 1076 чал., беларускую — 411 чал. Больш 65 % Л. (1970) жылі ў гарадах. Ва ўмовах пераважнага выкарыстання ў абыходку бел. і рускай моў латышская мова захоўвaецца ў асноўным як рэпрэзентатыўная (выкарыстанне яе сітуацыйна абумоўлена).

Побыт Л. на Беларусі мае спецыфічныя рысы: хутарскі тып рассялення, некаторыя элементы адзення, абрады, рэлігію. Мігранты з Латв. ССР і нашчадкі перасяленцаў на Беларусі, знаходзячыся ў пастаянных этнакультурных кантактах з мясцовым насельніцтвам, захоўваюць некаторыя этнічныя асаблівасці. *І. В. Карашчанка.*

**ЛА́ЎНІКІ,** 1) плытагоны ў басейне Зах. Дзвіны і на Бярэзінскай воднай сістэме. Ад назвы плыта — *лавы.* 2) Прысяжныя засядацелі, члены магістрата ў гарадах з магдэбургскім правам у Вял. кн. Літоўскім. 3) Службовыя асобы ў вёсцы, уведзеныя паводле «Уставы на валокі» 1557.

**ЛАШТ** (ням. Last цяжар, груз), адзінка вымярэння масы ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага. Раўнялася 120 *пудам.* Служыла для вымярэння збожжа.

**ЛЕ́БЕДЗЕВА** Наталля Іванаўна [6(18).7.1894, Разань — 19.3.1978], рускі сав. этнограф. Канд. гіст. н. (1928). Слухач Маскоўскіх вышэйшых жаночых курсаў. Працавала заг. археалагіч. аддзела Разанскага краязнаўчага музея, сакратаром этнагр. секцыі Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, у Цэнтр. музеі народазнаўства, секцыі этнаграфіі Маскоўскага ун-та. Даследавала матэрыяльную культуру беларусаў (экспедыцыі ўздоўж Прыпяці ў 1927 і 1930). Аўтар фундаментальных прац пра бел. нар. жыллё, прадзенне і ткацтва: «Жыллё і гаспадарчыя пабудовы Беларускай ССР» (1929), «Прадзенне і ткацтва ўсходніх славян у XIX — пачатку XX ст.» (1956). Разглядала гэтыя пытанні ў сувязі з матэрыяльнай культурай рускіх і ўкраінцаў.

**«ЛЕЗГІ́НКА»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Адносіцца да групы танцаў канца 19 ст., што ўзніклі ў вынікуператварэння асобных нац. вобразаў у нар.-бытавыя варыянты. Напачатку была пашырана ў асяроддзі гараджан, потым перайшла ў вёску ў значна змененым выглядзе. Выконвалася парамі і па аднаму. Асноўныя рухі складаюцца з простых і дробных крокаў, паваротаў дзяўчат пад рукой хлопца, галопу ў пары па крузе, до-за-до, кроку полькі. Часам асобныя танцоры ўключалі элементы імправізаванага танца, выконваючы адзін перад другім дробныя выстукванні. У такім выпадку ў выканаўцаў правая рука, сагнутая ў локці, знаходзіцца на ўзроўні грудзей, а левая адведзена ўбок. Гэта надае танцу своеасаблівы характар, уласцівы групе каўказскіх танцаў. *А. Л. Варламаў.*

**ЛЕ́ЙКА,** прыстасаванне ў выглядзе конуса з вузкай трубкай для пералівання і фільтравання вадкасцей.

**ЛЕЙКАПАДО́БНЫХ КУ́БКАЎ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура неалітычных і энеалітычных плямён, якія ў сярэдзіне 4-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. жылі на тэрыторыі паўн. часткі Цэнтр. Еўропы, сучаснай ПНР, паўн.-зах. часткі Украіны і — на познім этапе — паўд.-зах. часткі Беларусі. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй і паляваннем. Паселішчы звычайна размяшчаліся на ўзвышаных месцах, часткова ўмацоўваліся валамі і равамі. Жытлы — прамавугольныя ў плане зямлянкі, паўзямлянкі і наземныя слупавой канструкцыі сярэднім памерам 5×4 м. Будаваліся таксама вял. жытлы даўжынёю да 80 м з некалькімі памяшканнямі даўжынёю да 3 м кожнае, трапляліся круглыя дыяметрам 3 м. Унутры жытлаў размяшчаліся глінабітныя агнішчы, побач — гаспадарчыя ямы з абмазанымі глінай сценкамі дыяметрам 1,2 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на бескурганных могільніках, трапляюцца мегалітычныя збудаванні даўжынёю да 130 м, шырынёй да 15 м, вышынёй да 3 м з некалькімі пахаваннямі пад кожным такім насыпам. Насельніцтва вырабляла вялікія шырока адкрытыя пасудзіны, кубкі з лейкападобнай шыйкай і вушкамі на плечуках, амфарападобныя пасудзіны, чарпакі, друшлякі і інш., арнаментаваныя ўверсе гарызантальна размешчанымі ямкамі, насечкамі, ялінкападобнымі і зубчастымі адбіткамі, зігзагамі, адбіткамі перавітага шнура, трохвугольнымі ўзорамі. Ручкі пасудзіны ў некаторых выпадках завяршаюцца фігуркамі жывёл (часцей за ўсё баранаў). Вядомы гліняныя фігуркі валоў, запрэжаных у рала, дзікоў і інш. жывёл. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЛЕ́ЙЦЫ,** частка *вупражы,* прызначаная для кіравання цяглавай жывёлай. Рэгіянальная назва — вожкі. Паводле спосабу вырабу бываюць вітыя (вяровачныя), плеценыя і суцэльныя, а паводле матэрыялу — пяньковыя, ільняныя, лыкавыя, скураныя і камбінаваныя (у апошніх канцы скураныя, а асноўная частка — з вяроўкі). Даўжыня Л. залежала ад сістэмы *запрэжкі* і тыпаў экіпажаў (запрэжка аднаконная, шматконная, у рад, цугам і інш.). У рабочым стане Л. мацуюць канцамі (звычайна карабінамі) да аброці. *В. С. Цітоў.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў г. Лепелі 10.12.1954. Мае 7 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 283 м²), 7131 экспанат асноўнага фонду (1988). Аддзелы: гісторыі дасав. і сав. перыядаў, прыроды краю. У экспазіцыі адлюстравана гісторыя краю ад старажытнасці да нашых дзён: становішча працоўных у дарэвалюцыйны час, рэвалюцыйны рух у канцы 19 — пач. 20 ст., падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, індустрыялізацыя і калектывізацыя, партызанскі рух на тэрыторыі раёна ў Вял. Айч. вайну, вызваленне Лепельшчыны ў 1944, аднаўленне і развіццё нар. гас-

падаркі ў пасляваенны час. Дэманструюцца прылады працы і побыту сялян 19—20 ст. (жорны, кросны, калаўрот, верацёны, пешня жалезная, цэп, кірка, матыка, сякера-склюд, сявенькі, бразготкі, сярпы, лучнікі, ступа, таўкач, начоўкі, качалкі, бязмен, замкі і ключы, драўляныя лыжкі і каўшы, кубак берасцяны, самавары, абрусы, сурвэткі, ручнікі-набожнікі і інш.), калекцыя нар. адзення (світкі, кашулі, наміткі, андаракі, паясы, вясельны ўбор, лапці і



Лепельскі краязнаўчы музей. Фрагмент экспазіцыі.

інш.), музычныя інструменты (дуда, самаробныя цымбалы і скрыпка, гармонік), ганчарныя вырабы і інш.

*В. Я. Ланікіна.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Падзвіння. Бытаваў у 19—пач. 20 ст. пераважна ў Лепельскім, Ушацкім, Чашніцкім р-нах. Аснову летняга касцюма жанчын складалі спадніца, фартух. Кашуля мела тунікападобны або з прамымі плечавымі ўстаўкамі крой, сціплае аздабленне вузкімі паскамі чырвона-чорнага геам. арнаменту на рукавах і плечавых устаўках. Спадніцу (саян, дрыліх, андарак, шарак) шылі з 3—4, у заможных сялян з 7 полак пярэстых або аднаколерных даматканых тканін у блакітна-белым, сіне-фіялетавым, вохрыста-чырвоным каларыце, фартух з 1—3 полак кужэльнага палатна, аздаблялі ўзорыстым ткацтвам (пераборы), вышыўкай (мярэжка), карункамі. Галаўныя ўборы — намітка, чапец, хустка, вянок, карона (галаўны ўбор дзяўчыны-мяшчанкі накшталт падвічкі з парчы, расшытай бліскаўкамі) і інш. Мужчынскае адзенне складалі кашуля (насілі навыпуск, падпяразвалі поясам ці дзягай), нагавіцы, камізэлька з чорнай або цёмна-сіняй крамнай тканіны. Галаўныя ўборы — саламяны або лямцавы капялюш, белая магерка, картуз. Верхняе мужчынскае і жаночае адзенне — армяк, сярмяга, світка, кажух.

**ЛЕСАВІ́К,** вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў; гаспадар лесу і звяроў, які жыве ў лясных нетрах; тое, што і *лясун*.

**ЛЕСАВО́ЗЫ,** сані для перавозкі лесу і будаўнічых матэрыялаў; тое, што і *кары*.

**ЛЕСАСПЛА́Ў,** транспарціроўка лесаматэрыялаў па водных шляхах. Адзін з самых пашыраных промыслаў на Беларусі. У 19 ст. меў пераважна форму *адыходніцтва*. У 1850-я г. на Палессі Л. займалася штогод да 8 тыс. сялян, у 1890-я г. — каля 25 тыс. (амаль палавіна ўсіх адыходнікаў гэтага рэгіёна). У 1901 у Віцебскай губ. 40 % прамысловага насельніцтва адыходзіла на заработкі, з іх 41,4 % на лесанарыхтоўкі і Л. Найбольшага развіцця Л. дасягнуў у 2-й пал. 19 ст. Акрамя лесаматэрыялаў (бярвення, брусоў, мачтаў, дроў, клёпак) *плытамі* дастаўлялі і інш. грузы: пяньку, лён, драўляны посуд, цэглу, збожжа ў мяшках, сала, смалу, паташ, гарэлку і інш. Напр., у 1837 на Шчары на 546 плытоў было пагружана будаўнічага лесу на 111 896 руб., збожжа на 2172, драўлянага посуду на 543, вапны на 240, цэглы на 360, гарэлкі на 27 210 руб. Караваны плытоў спускаліся па Нёмане і Зах. Дзвіне ў Балтыйскае мора, па Дняпры ў Чорнае мора. Самым буйным у 2-й пал. 19 ст. быў Прыпяцкі сплаўны басейн.

Лясныя матэрыялы для сплаву нарыхтоўвалі ў асенне-зімні перыяд: валілі лес, апрацоўвалі і дастаўлялі яго да рачных прыстаняў. На берагах рэк лесаматэрыялы ўкладвалі ў штабелі на спец. месцы — *руме* (біндуга, кацішча). Сплаў пачынаўся ранняй вясной. У залежнасці ад шырыні рэчышча існавалі два спосабы Л. — плытамі і россыпам (молем). Плыты вязалі вясной на вадзе або на беразе ракі з акораных і прасохлых бярвёнаў. Пераважалі аднарадныя плыты з увязкай бярвёнаў тарцамі ўздоўж ракі, аднак пры высокім узроўні вады рабілі іншы раз накат з брусоў. Клёпку ўвязвалі ў асобныя плыты — клалі ў 8—10 радоў на двух брусах даўжынёю 6—8 м. Кіравалі плытам двума рулявымі вёсламі, якія мацавалі на пярэднім і заднім звёнах плыта ва ўключыны (качаты, рачкі), або шастамі (*ляскі*, яліны, бусакі). Невялікімі плытамі з 2—3 звёнаў кіравалі 2—3 плытагоны, партыю, караван суправаджала арцель плытагонаў. Россыпам сплаўлялі лес на невялікіх рэках; для яго затрымання раку перагароджвалі ланцугамі з бярвення (бом, забома). З 1920-х г. аб'ём Л. паступова скарачаўся, у пач. 60-х г. сплаў спыніўся зусім. У наш час лес перавозяць пераважна па чыгунцы і аўтатранспартам.

*Н. І. Буракоўская.*

**ЛЕСАХІМІ́ЧНЫЯ ПРО́МЫСЛЫ,** вытворчасць вугалю, дзёгцю, смалы, *паташу* ў выніку сухой перагонкі дрэва. Выпальванне вугалю, гонка смалы (гл. *Смалакурэнне*), дзёгцю былі пашыраны на тэр. Беларусі яшчэ ў перыяд Кіеўскай Русі; выраб паташу ўзнік пазней. Прадукцыя промыслаў задавальняла гаспадарчыя патрэбы мясцовага насельніцтва і экспартавалася праз балтыйскія, а з канца 18 ст. і чарнаморскія порты. Смалу выкарыстоўвалі для прасмальвання рачных і марскіх суднаў, канатаў, рыбалоўных нератаў, дзёгаць — у нар. медыцыне, гарбарнай вытворчасці, для падмазвання калёс, вугаль — у руднай і кавальскай справе. Узнікненне і пашырэнне вырабу паташу звязана з развіццём цэхавага рамяства і мануфактур. Паташ выкарыстоўвалі ў шкляной, мылаварнай, тытунёвай, фармацэўтычнай, кандытарскай вытворчасці, для вырабу палівы, фарбавальнікаў, адбельвання тканін, мыцця воўны і інш. Найбольш пашыраны былі Л. п. на У Беларусі і Палессі. Належалі яны буйным землеўладальнікам і арандатарам. На *будах*, абсталяваных спец. печамі для смалакурэння, гонкі дзёгцю, выпальвання вугалю і вырабу паташу, працавалі прыгонныя і наёмныя рабо-

чыя. Драўняны вугаль выпальвалі і кучавым спосабам (гл. *Куча*). Пасля адмены прыгону Л. п. валодалі звычайна купцы-лесапрамыслоўцы. Акрамя мужчынскай, шырока выкарыстоўвалася жаночая і дзіцячая праца. Так, у Мазырскім пав. ў 1870-я г. за падноску лучыны да печы жанчынам і хлапчукам плацілі па 10—20 кап. у дзень, мужчынам — 2 руб. ў тыдзень. Промысламі займаліся і сяляне-саматужнікі. У Магілёўскай губ., напр., у 1880-я г. сяляне гналі смалу і дзёгаць невялікімі арцелямі (5—7 чал.). Яны арандавалі ў памешчыкаў участкі высечанага лесу, карчавалі *асмол*. Палавіну здабытай



**Лепельскі строй.** Цясляр з Лепеля. Канец 19 ст.

смалы аддавалі памешчыкам, астатнюю выкарыстоўвалі для сваіх патрэб або прадавалі на кірмашах. У 2-й пал. 19 ст. Л. п. пачалі скарачацца ў сувязі з павелічэннем аб'ёму лесанарыхтовак і экспарту таварнай драўніны. Асабліва паўплывала на гэта развіццё прамысловасці і выкарыстанне новых відаў сыравіны (каменнага вугалю, нафты, соды). Да канца 19 ст. саматужнае смалакурэнне прыйшло ў заняпад, хаця бытавала і ў пач. 20 ст., а выраб паташу спыніўся на пач. 20 ст. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі лесахімічную прадукцыю выраблялі дзярж. прадпрыемствы, прамысловая кааперацыя і некааператаваныя саматужнікі. У 1928 удзельная вага дзярж. сектара ў вырабе смалы і шкіпінару ў рэспубліцы складала 6,6 %, кааперараваных саматужнікаў 32,4 % і некааперараваных саматужнікаў 61 %, а ў 1929 — адпаведна 35 %, 55 % і 10 %. У наш час вытворчасцю смалы і шкіпінару-сырцу займаюцца 5 леспрамгасаў (Гродзенскі, Івацэвіцкі, Маладзечанскі, Плешчаніцкі і Тураўскі), падсочку *жывіцы* вядуць 16 аб'яднанняў і прадпрыемстваў (здабываюць 11,3 тыс. тон у год).

*Н. І. Буракоўская.*

**«ЛЕ́ТА»**, старажытны карагод. Называўся таксама «Раёк», «Сноп». Выконвалі ў час жніва (дажынак). Значную ролю ў карагодзе адыгрывала «барада» — упрыгожаны кветкамі і стужкамі сноп з апошніх каласоў ці некалькі нязжатых сцяблоў жыта, звязаных каля



**Лепельскі строй.** Дзяўчына ў святочным адзенні. Вёска Абольцы Талачынскага раёна.

каласоў і нахіленых на Пд. Жанчыны вадзілі карагод вакол снапа (асноўны рух — простыя крокі) і спявалі жніўныя песні:

Ужо ж я ў полі настаяўся,
Буйных вятроў наслухаўся,
І каласком памахаўся.

Часам удзельнікі выконвалі рухі, якія імітавалі працэс жніва. У Брэсцкай вобл. зафіксаваны варыянт «Л.», у якім жанчыны хадзілі цугам вакол трох «барод». Часта ўдзельнікі карагода падпразваліся перавяслам і трымалі ў руках або на плячах сярпы. У канцы карагода жнеі надзявалі гаспадару поля на шыю доўгі пояс, а гаспадыні — вялікі вянок з каласоў і спявалі:

Цяпер у нас дажыначкі,
Няма ў нас хлеба скарыначкі.
Гаспадар у нас беднаваты,
Няма яму чаго нам даці.

«Л.» зафіксавана экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК па ўсёй Беларусі. *А. Л. Варламаў.*

**ЛЁЗНЫЯ**, катэгорыя насельніцтва на Беларусі ў 16—18 ст. Лакальныя назвы люзныя, гульцяі. Уваходзілі збяднелыя гараджане і абеззямеленыя беглыя сяляне. Жылі ў гарадах і мястэчках, не мелі ўласнага дома і інш. маёмасці, выконвалі работы па найму (называліся найміты, малайцы, якія былі на паслугах — слугі), займаліся перапрадажам прадуктаў, тавараў, служылі ў войску (у Слуцку ў 1656 сфарміраваны полк з Л.). Плацілі падатак (30 грошаў у гарадах, 15 у мястэчках). Каб засцерагчы гарады ад наплыву Л., колькасць якіх расла, падатак паступова павялічваўся ў 1,5—2 разы. У 1-й пал. 17 ст. складалі 10 % гарадскога насельніцтва, папаўнялі яго плебейскую частку. Удзельнічалі ў выступленнях супраць феадальнага прыгнёту і каталіцкай экспансіі. *З. Ю. Капыскі.*

**ЛЁК**, селядзечны расол. У некаторых мясцінах называлі ляк. Елі Л. з бульбаю, з яго рабілі мачанне да бульбы. Вядомы паўсюдна. У Камянецкім р-не Л. варылі: у вадзе варылі селядзец, дадавалі алей, муку з канаплянага семя.

**ЛЕЛЯ**, багіня вясны, дзявочага хараства ў язычніцкай міфалогіі ўсходніх славян. Уяўлялася маладзенькай, прыгожай дзяўчынай, якая ранняю вясною ходзіць па праталінах і абуджае зямлю ад зімовага сну; дзе Л. ступіць, там зелянее трава, распускаюцца кветкі. Існавала павер'е, што дзіця будзе прыгожае, калі маці вынесе немаўля ў новенькай кашулі (лёлечцы) і пройдзецца з ім басаног па першай траве. Напярэдадні *Юр'я* (22 крас.) дзяўчаты спраўлялі ляльнік (веснавое свята, урачыстасць у гонар кахання і шлюбу) — з песнямі вадзілі карагод вакол першай заселянелай бярозкі. Самых прыгожых дзяўчат называлі Ляляю або Лёляю.

*І. П. Хаўратовіч.*

**ЛЁН.** Валакно гэтай расліны служыла асноўнай сыравінай для вырабу тканін. Для атрымання валакна саломку Л. рассцілалі на лузе або на пожні, звычайна ў канцы жніўня ў час вялікіх рос. Пры дажджлівым надвор'і саломка вылежвала 3—4 тыдні, пры сухім — 5—6. У раёнах таварнай вытворчасці (Пн і ПнУ) яе вымочвалі (часам спачатку вымочвалі, а потым рассцілалі). Валокны з мачанца лепш выбельваліся і былі больш моцнымі. Гатовую трасту звязвалі ў кулі, сушылі ў ёўні, на печы і інш. У кастрычніку яе мялі *церніцай*, трапалі *траплом*, часалі *грэбенем* або шчоткай. Атрыманых *кужаль* або *кудзелю* пралі пры дапамозе *верацяна* ці на *калаўроце*.

*Г. М. Курыловіч.*

**ЛІБЕ́РСКІ ГАЎРЫ́ДНІК**, *умоўная мова* т. зв. лабараў — зборшчыкаў ахвяраванняў на будаўніцтва храмаў; тое, што і *выцірняцкі гаўрыднік.*

**ЛІ́БІЛА**, прылада для лоўлі ракаў. Уяўляла сабой завостраную на адным канцы палку, да якой унізе прывязвалі мяса жабы, малюскаў. Прычапіўшыхся да прынады ракаў выцягвалі на паверхню вады. У месцах скопішча ракаў Л. ўстанаўлівалі дзесяткамі. Шырока выкарыстоўваліся ў канцы 19 — пач. 20 ст. Асабліва папулярнай лоўля ракаў Л. была сярод дзяцей і падлеткаў.

**ЛІ́БРА** (ад лац. liber кніжка), даўняя адзінка лічэння паперы (25 аркушаў).

**ЛІ́ДСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й**. Адкрыты 24.4.1959 у Лідзе. Мае 14 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 317 м²), 26,2 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: прыроды, гісторыі дасав. перыяду, гісторыі сав. грамадства. На стэндах прылады працы каменнага веку, манеты з археалагічных раскопак на тэр. Лідскага замка, зброя розных часоў, дакументы і матэрыялы пра стараж. гісторыю Ліды, рэвалюцыйны рух у канцы 19 — пачатку 20 ст., барацьбу працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў часы панавання буржуазнай Польшчы, падзеі Вял. Айч. вайны, аднаўленне і развіццё краю ў пасляваенны час. У этнагр. калекцыі прылады працы і побыту сялян 19 — пач. 20 ст.: саха, драўляная барана, цэп, серп, сявенька, каса, ступа, жорны, дзяжа, рэшата, бязмен, цэрніца, трапачка, прасніца, калаўрот, матавіла, верацяно, сукала, чаўнок, кросны, куфэрак, бразготкі, конаўка, ручнікі, паясы, посцілкі, лапці, бурносы. Экспануюцца творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (разьба па дрэве, чаканка і інш.), узоры вырабаў шклозавода «Нёман». *І. Ф. Цімашэўскі.*

**ЛІ́НА**, тоўстая вяроўка, канат даўжынёю каля 50 м, , якім у дарэвалюцыйнай Беларусі бурлакі цягнулі судны супраць цячэння (гл. *Бурлацтва*).

**ЛІ́ПАЎКА**, выдзеўбаная пасудзіна; *кадаўб* з ліпы. Пэўна акрэсленага аб'ёму не мела. Л. вялікіх памераў выкарыстоўвалі пад зерне. Зграбна і з густам рабілі Л. пад мёд (найбольш пашыраны пасудзіны на 40—50 кг мёду) і напіткі. Вядома паўсюдна і ў наш час.

**ЛІ́РА** (грэч. lўга) к о л а в а я, народны струнны фрыкцыйны музычны інструмент. Іншыя нар. назвы — лера, рэля, на бел.-укр. парубежжы таксама кобза, бандура, на Чэрвеньшчыне — старэцкая скрыпка. Мае драўляны рэзанансавы корпус разнастайнай формы (прамавугольнай, авальнай, скрыпічнай, гітарнай), кароткую шыйку з калкамі, 3—4-жыльныя або вераўчаныя струны (з іх 1—2 сярэднія служаць для выканання мелодыі, 2 крайнія — бурдонныя), ад 4—5 да 13 клавішаў. Гук здабываецца трэннем па струнах драўлянага кола, якое прыводзіцца ў рух ручкай; вышыня гуку змяняецца пры дапамозе клавішаў. Гукарад Л. дыятанічны рознага дыяпазону, гучанне манатоннае, жаласлівае, крыху гугнявае. Інструмент з'явіўся на Беларусі на мяжы 16—17 ст. і быў звязаны з побытам *лірнікаў*. Пад акампанемент Л. яны спявалі пераважна духоўныя вершы, гіст. і павучальна-бытавыя песні, часам жартоўныя, зрэдку выконвалі танцавальныя мелодыі. Выйшла з ужытку Л. ў 1930—40-я г. У наш час удасканаленая Л. выкарыстоўваецца ў нар. аркестрах, ансамблях нар. музыкі і інш.

*І. Дз. Назіна.*



Сляпы з **лірай**. Мястэчка Петрыкаў. Пачатак 20 ст.

**ЛІ́РНІК**, жабрак (старац), які здабываў сабе сродкі існавання спевамі ў суправаджэнні *ліры*. У часы прыгонніцтва Л. вандравалі па ўсёй Беларусі пераважна па вёсках, у дні кірмашоў і фэстаў канцэнтраваліся ў мястэчках і гарадах. У дакументах 2-й пал. 17—19 ст. ёсць звесткі пра карпарацыі жабракоў, у якія ўваходзілі і Л. (напр., у Магілёве, Слуцку). Выконвалі Л. духоўныя вершы (найб. папулярныя «Лазар», «Прытча пра блуднага сына»), песні павучальна-бытавыя («Сіротка», «Пра Надзю») і гістарычныя («Паранены, замучаны крываваю вайной»), а пры пэўных абставінах і танцавальныя мелодыі, гарэзлівыя прыпеўкі. Сярод Л. сустракаліся, паводле сведчанняў М. Я. Нікіфароўскага і С. Малевіча, таленавітыя выканаўцы (Сымон-сляпак з Віцебшчыны, Флёрык з Ляхавіч). Ігры на ліры навучаліся ў спрактыкаваных майстроў-«дзядоў» або непасрэдна ў час вандраванняў. Народ бачыў у Л. носьбітаў ідэй дабра, справядлівасці, выразнікаў сваіх думак. Пасля Кастр. рэвалюцыі ў сувязі з карэннымі зменамі сацыяльнаэканам. умоў жыцця Л. як асобная група насельніцтва паступова зніклі.

*І. Дз. Назіна.*

**ЛІС** Арсень Сяргеевіч (н. 4.2.1934, в. Вётхава Смаргонскага р-на), беларускі савецкі фалькларыст, літаратуразнавец. Канд. філал. н. (1966). Скончыў БДУ (1956). Настаўнічаў, працаваў рэдактарам у Дзярж. выд-ве БССР, з 1962 навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Друкуецца з 1955. Даследуе каляндарна-абрадавую нар. творчасць, гісторыю культуры, фалькларыстыкі, рэв. песні Зах. Беларусі. Аўтар манаграфіі «Купальскія песні» (1974), нарысаў пра жніўную, восеньскую, талочную нар. паэзію. Адзін з аўтараў падручніка «Беларуская народна-паэтычная творчасць» (1979), укладальнік зб. «Беларускія народныя песні» (1970), адзін з укладальнікаў хрэстаматыі «Беларускі фальклор» (1970, 1977, 1985). Аўтар уступных артыкулаў і укладальнік тамоў зводу «Беларуская народная творчасць» («Жніўныя песні», 1974, «Восеньскія і талочныя песні», 1981, «Купальскія і пятроўскія песні», 1985). Піша пра вучоных, музыкантаў, мастакоў, нар. спявачак. Сааўтар сцэнарыяў дакумент. фільмаў «Максім Гарэцкі. Прысады жыцця» (1985), «Песня на ўсё жыццё» (1986). Дзярж. прэмія БССР 1986.

*Тв.:* Браніслаў Тарашкевіч. Мн., 1966; Мікола Шчакаціхін: Харацтво непазнанай зямлі. Мн., 1968; Пётра Сергіевіч. Мн., 1970; Пякучай маланкі след: Эцюд да цартрэта мастака Горыда. Мн., 1981; Вечны вандроўнік: Нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча. Мн., 1984. *А. Ю. Лозка.*

**ЛІСІ́ЦЫ**, канструкцыя, з дапамогай якой сціскалі брярвёны сцен, каб пазбегчы іх дэфармацыі. Лакальная назва лісічкі. Складаліся з 2 дошак, што праходзілі ўнізе і ўверсе праз сцяну, і 2 брусоў, якія зверху ўстаўляліся ў спец. вырэзы ў дошках. У хатах Л. звычайна ставілі ў прасценках, у іншых пабудовах — уздоўж сцен. Пазней у больш дасканалых канструкцыях Л. замест

дошак выкарыстоўвалі метал. вінты, якімі сцягвалі вертыкальныя брусы.
*С. А. Сергачоў.*

**ЛІТВА́,** 1) гісторыка-геаграфічная і этнаграфічная вобласць на паўночным захадзе сучаснай БССР і паўднёвым усходзе Літоўскай ССР. Упершыню адзначаецца ў Кведлінбургскіх аналах пад 1009, ва ўсх.-слав. летапісах пад 1040. Этымалогія тэрміна «Л.» канчаткова не высветлена. Гіст. крыніцы 14—17 ст. падаюць яе як міфалагічна-легендарную: у бел.-літоўскіх летапісах выводзяць ад лацінскіх слоў «літус туба» (літус — бераг, туба — труба), якімі вызначалі панёманскія землі рымля-



Канструкцыя лісіц.

не, што нібыта перасяліліся сюды з Італіі. У польскіх храністаў — ад трансфармацыі слоў Італія — Літалія — Літуанія — Літуа — Літва (Я. Длугаш, Мацей з Мехава) ці ад імя аднаго з важакоў рымлян — Літаона (М. Бельскі). Сучасныя даследчыкі звязваюць назву Л. з балцкімі ці слав. каранямі Lietà, Lieti (ліць, цячы), з балцкім гідронімам Ліетава — Ліетаўка (прыток Віліі), з кельцкім словам Litavia — прыбярэжная краіна, з бел. дыялектным лютвін — люты і інш. Першапачатковая лакалізацыя тапоніма Л. канчаткова не вызначана. Большасць даследчыкаў (У. Ц. Пашута, Г. Лаўмяньскі, Р. К. Валкайтэ-Кулікаўскене і інш.) звязваюць Л. 11 ст. з археалагічнай культурай т. зв. усходнелітоўскіх курганоў, арэал якой ахопліваў сярэдняе цячэнне Нёмана і р. Швянтоі да Свіры, Смаргоні, Маладзечна і інш., ці з ранне-феадальным усходнебалцкім саюзам плямён у міжрэччы Нёмана і Віліі, межы якога на ПдУ праходзілі ў сучасных Шчучынскім, Лідскім, Воранаўскім, Іўеўскім, Ашмянскім і Астравецкім р-нах. На думку М. І. Ермаловіча, тэр. Л. 12—13 ст. знаходзілася ў Верхнім Панямонні — паміж Мінскам і Навагрудкам, Маладзечнам і Ляхавічамі. Да 13 ст. Л., як асобная зямля, супрацьпастаўлялася іншым балцкім племянным супольнасцям (селы, *ятвягі*, скальвы, *борці*, жэмайты) і землям (Нальшчаны, Дзяволтва, Упітэ і інш.). У стараж.-рускіх летапісах і інш. гіст. крыніцах назва «Л.» часта выкарыстоўвалася ў якасці агульнай для паўд.-усх. часткі ўсходнябалцкіх і памежных зямель са змешаным і асіміляваным балта-слав. насельніцтвам — на Пн і З ад Мядзела, Вілейкі, Маладзечна. Заслаўя, Ляхавіч, Слоніма, Навагрудка, Ваўкавыска і інш. У 13 ст. аб'яднанне ў межах Л. шэрагу балцкіх, усх.-слав. і змешаных па этнічнаму складу насельніцтва зямель стабілізавала назву Л. ў дзяржаўна-паліт. сэнсе ў сувязі з утварэннем Вял. кн. Літоўскага (рэзідэнцыяй вялікіх князёў літоўскіх быў Навагрудак). У 14—15 ст. арэал назвы Л. пашыраецца па меры расшырэння тэр. Вял. кн. Літоўскага (з 1323 сталіца Вільня). Бел.-літоўскія гіст. крыніцы 15—17 ст. называюць Л. тэрыторыю яе гісторыка-этнагр. лакалізацыі, а таксама некаторыя землі ад Жэмайціі і Латгаліі (на З і Пн) да Браслава, верхняга і сярэдняга цячэння Бярэзіны, Барысава, Мінска, Слуцка (на У) і да Клецка, Ляхавіч, Косава, Бярозы, Пружан, Свіслачы (на Пд). Назва Л. часам супрацьпастаўлялася назвам іншых зямель Вял. кн. Літоўскага — *Белая Русь*, Падляшша, *Палессе*, Жэмайція. У межах арэала назвы Л. бытавалі таксама тэрміны *Чорная Русь*, Аўкштайтыя і інш., што было абумоўлена неаднародным этнічным і поліэтнічным складам насельніцтва. Гіст. крыніцы 16—18 ст. адзначаюць таксама існаванне паняццяў Л. Завілейская (паміж Віліяй і Зах. Дзвіной) і Л. Павілейская [ад Віліі да Нёмана, іншы раз атаясамліваюць з Чорнай Руссю (М. Стрыйкоўскі)]. У 17—18 ст. Л. ці літоўскімі землямі называлі тэр. Віленскага, Трокскага, Навагрудскага, Берасцейскага і часткова Мінскага ваяводстваў, з канца 18 ст.— Віленскую, Ковенскую, Гродзенскую і часткова Мінскую губ. У 19—20 ст. з фарміраваннем нацый і ростам нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і літоўцаў назва Л. афіцыйна замацавалася выключна за тэр. сучаснай Літ. ССР, а на ўсх. землях замянілася назвай Беларусь.

Назва Л. на Беларусі захавалася ў форме шматлікіх айконімаў Літва, Ліцвінаўка, Ліцвінавічы, Літоўка, Літоўшчына, Ліцвяны і інш. пераважна ўздоўж сучаснага бел.-літоўскага памежжа, на мяжы з Жэмайціяй, на стараж. памежжы Вял. кн. Літоўскага з Рускай дзяржавай (Смаленшчына, Браншчына, Чарнігаўшчына, Палессе і Падляшша), а таксама на землях Расіі і Украіны, дзе ўзнікалі вёскі з беларускамоўных мігрантаў. Захавалася назва Л. і ў форме лакальнага этнанімічнага вызначэння *літвіны*.

2) Скарочаная назва Вял. кн. Літоўскага (поўная афіцыйная назва дзяржавы Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае, Навагародскае і Рускае, з 15 ст. Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае. *Э. М. Зайкоўскі, І. У. Чаквін.*

**ЛІТВІ́Н** Міхалон (сапр. Ціпкевіч Міхайла), беларускі гуманіст і мысліцель 16 ст. У 1538—40 пасол Вялікага кн. Літоўскага да крымскага хана. Аўтар сацыяльна-паліт. трактата «Пра норавы татараў, літоўцаў і масквіцян» (напісаны каля 1550, выд. на лац. мове ў 1615 у Базелі). У ім крытыкаваў дзярж. лад, саслоўна-сацыяльныя адносіны ў Вялікім кн. Літоўскім, норавы і паводзіны феад. арыстакратыі, духавенства, царкоўныя парадкі. У справе перабудовы грамадска-паліт. адносін заклікаў звяртацца да вопыту суседніх народаў (рускіх, татараў і інш.). У трактаце шмат звестак пра духоўную культуру, лад жыцця, сямейныя адносіны, побыт беларусаў, рускіх, літоўцаў, татараў, украінцаў, палякаў.

*Літ.:* Сокол С. Ф. Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI века. Мн., 1974. С. 37—63; Александровіч Я. Міхайла Ціпкевіч//Полымя. 1968. № 4. *І. У. Чаквін.*

**ЛІТВІ́НЫ, ЛІЦВІ́НЫ,** назва жыхароў Вялікага княства Літоўскага, пераважна зах. беларусаў і ўсх. літоўцаў у 14—18 ст. Упершыню сустракаецца ў польскіх гіст. крыніцах (хроніках і аналах) 14 ст. У бел.-літоўскіх летапісах і інш. дакументах 14—16 ст. назва Л. звязвалася ў этнагенетычным аспекце з легендарнымі рымскімі перасяленцамі на чале з кн. Палемонам, а тэрытарыяльна — з землямі першапачатковай лакалізацыі тапоніма Літва — на захад ад Мінска ў міжрэччы Нёмана і Віліі, дзе існавала змешанае балта-славянскае насельніцтва. Супрацьпастаўлялася этнонімам інш. суседніх этнічных груп і народаў — русінам, ляхам (палякам), мазурам (мазаўшанам), жэмайтам (жмудзі), прусам, валынянам і інш. У канфесіянальным аспекце нярэдка звязвалася з каталіцтвам. У 16—18 ст. назва Л. набыла гучанне палітоніма — дзяржаўна-паліт. вызначэння ўсяго насельніцтва Вялікага кн. Літоўскага, аднак адрознівалася ад саманазвы менавіта літоўцаў (аўкштайты і жэмайты), усх. беларусаў праваслаўнай веры (русіны, рускія, рускія) і палешукоў. Жыхары Белай Русі называліся літвінамі-беларусцамі. У 19 — пач. 20 ст. арэал існавання назвы Л. звузіўся. У наш час ужываецца ў якасці экзаэтноніма ў палякаў для вызначэння літоўцаў, а таксама як лакальны этнікон невялікіх груп бел. насельніцтва (у раёне Бярозы, Івацэвіч, Косава, Пружан, Нава-

грудка, Воранава, Гродна, Пастаў, Браслава і інш.), некаторых раёнаў бел.-укр. Палесся (раёны Століна, Ракітнага, Кастопаля, Сарнаў, Оўруча) і часткова беларусамоўнага насельніцтва паўн. Чарнігаўшчыны і Кіеўшчыны, зах. Браншчыны і Смаленшчыны.

*І. У. Чаквін.*

**ЛІТОЎСКА-РУ́СКАЯ ДЗЯРЖА́ВА**, назва Вялікага княства Літоўскага, якая ўжывалася ў рускай дваранскай і буржуазнай гістарыяграфіі.

**ЛІТО́ЎЦЫ**, нацыя, асноўнае насельніцтва Літоўскай ССР (2712 тыс. чал.). Усяго ў СССР 2851 тыс. чал., з іх у БССР — 6993 чал. (перапіс 1979). Гавораць на літоўскай мове. Жывуць таксама ў ЗША, Зах. Еўропе, Канадзе, Польшчы, Паўд. Амерыцы, Аўстраліі. Веруючыя Л. гал. чынам каталікі.

Фарміраванне літоўскай народнасці, этнічную аснову якой склалі племянныя аб'яднанні аўкштайтаў і жэмайтаў, завяршылася ў 13 ст. У склад літоўскай народнасці ўвайшлі таксама роднасныя ім плямёны ятвягаў, куршаў, земгалаў, селаў, прусаў. Кансалідацыя Л. у нацыю завяршылася ў 2-й пал. 19 ст.

Бел.-літоўскія этнічныя сувязі маюць даўнія традыцыі. На працягу стагоддзяў







**Ліштва** акна жылога дома ў горадзе Хойнікі.



**Ліштва** акна жылога дома ў гарадскім пасёлку Старобін.

**Ліштвы** і аканіцы жылога дома ў горадзе Ветка.

**Ліштва** акна жылога дома ў вёсцы Падбярэззе Крупскага раёна.

(13—18) бел. і літоўскія землі ўваходзілі ў склад Вял. кн. Літоўскага, дзярж. мовай (да 17 ст.) была старабеларуская. Бел. і літоўскае насельніцтва аб'ядноўваў палітонім літвіны. Пра даўнія бел.-літоўскія этнакультурныя сувязі сведчаць падабенства пэўных элементаў матэрыяльнай культуры, наяўнасць у літоўскай мове значнага пласта слоў бел. паходжання і шэраг літуанізмаў у бел. мове. Адной з праяў паглыбленых этнічных кантактаў беларусаў і Л. была беларусізацыя груп літоўскага насельніцтва (часам працягвалася да 1920—30-х г.). У сярэдзіне 19 ст. жыхары некаторых вёсак Ашмянскага, Гродзенскага, Лідскага і Слонімскага пав. карысталіся ялшчэ літоўскай мовай.

Перасяленне Л. на ўсх. і паўн.-ўсх. землі Беларусі пачалося ў канцы 1870-х г., масавым стала ў 80-я г., скончылася ў пачатку 90-х г. Пераважная большасць Л. асела ў Аршанскім, Чэрыкаўскім, Чавускім пав., частка ў Віцебскай губ., нязначная колькасць у Барысаўскім пав. У 1897 значныя кампактныя групы Л. жылі ў Лідскім (17 285 чал.), Ашмянскім (8754), Гродзенскім (2814), Аршанскім (звыш 1400), Сенненскім (каля 800), Чавускім (каля 500), Барысаўскім (звыш 400) паветах. Л., якія жылі ў сельскай мясцовасці Беларусі, займаліся земляробствам, было развіта ткацтва. Літоўскія ткачыхі з поспехам экспанавалі свае вырабы на Усебел. выстаўцы гаспадарчых і культурных дасягненняў нацменшасцей БССР (ліст. 1927). У 1906—07 у в. Малькаўка Чэрыкаўскага пав. дзейнічала літоўская нацыянальная школа. Перад 1-й сусветнай вайной толькі на У Беларусі жыло каля 10 тыс. Л. У час вайны ў выніку міграцыі з этнічнай Літвы вырасла колькасць Л.-гараджан. У 1919—20 існавала Літоўска-Бел. ССР. Паводле перапісу 1926 Л. у БССР было 6564 чал., у т. л. да 2 тыс. гараджан (Віцебск, Барысаў, Гомель, Мінск). Да 65 % літоўскага насельніцтва жыло ў Мсціслаўскім, Дубровенскім, Лёзненскім, Чавускім, Крупскім, Барысаўскім, Сенненскім, Ушацкім, Полацкім р-нах (каля 100 чал. у кожным). Да калектывізацыі Л. складалі больш за 50 асобных населеных пунктаў. Побач з паасобнымі дварамі і невялікімі паселішчамі існавалі вёскі па 20, 30, 50 і нават да 100 двароў (в. Малькаўка Расненскага, пазней Мсціслаўскага, в. Сафійск Чавускага р-наў, група вёсак у Верацейскім сельсавеце Дубровенскага р-на). У месцах кампактнага рассялення Л. у 20—30-я г. існавалі нацыянальныя калгасы (6 у 1934). З 1928 да вясны 1939 існаваў Малькаўскі літоўскі нацыянальны сельсавет (у 1926 Л. з Малькава роднай лічылі літоўскую мову). Дзейнічалі нацыянальныя школы, сярод іх адзіная літоўская сярэдняя школа БССР і СССР у в. Дыманова Віцебскага р-на і няпоўная сярэдняя ў Малькаўскім сельсавеце. Пры ЦК КП(б)Б існавала Літоўскае бюро. З 1928 існавала літоўская секцыя Бел. асацыяцыі

пралетарскіх пісьменнікаў (з 1932 СП БССР). У 1932 быў утвораны літоўскі сектар пры Бел. дзярж. выдавецтве. У 1927—37 выдавалася газ. «Raudonasis Artojas» («Чырвоны араты») — орган ЦК КП(б) Б. У 1928—37 Мінская радыёстанцыя трансліравала перадачы на літоўскай мове. У Мінску і Віцебску існавалі літоўскія рабочыя клубы. З 1927 у Інбелкульце (з 1929 у АН БССР) працавала кафедра гісторыі Літвы, з 1929 літоўскі сектар АН, з чэрв. 1933 літоўская секцыя Ін-та нацменшасцей АН БССР. Значнае месца ў даследаваннях аддавалі гісторыі літоўскіх паселішчаў на Беларусі. Сярод публікацый супрацоўнікаў секцыі: «Нацыянальна-культурнае будаўніцтва сярод літоўскіх працоўных мас Савецкай Беларусі» (1932), «Літоўцы ў Савецкай Беларусі» (1935) В. Скардзіса, «Беларуска-літоўскі і руска-літоўскі тэрміналагічны слоўнік» (1934) В. Копкі і інш. У канцы 30-х г. колькасць літоўскага насельніцтва на Беларусі паменшылася.

У пастаянных этнічных кантактах з літоўскім насельніцтвам у 1920—40-я г. была бел. этнічная група ў Літве (па прыблізных падліках да 40 тыс. чал.). Карэннае бел. насельніцтва Літвы жыло ў Бразэлі, Еўі, Мерачы, Гільвянах, Лункішках. Там і ў Коўне (Каўнас) дзейнічалі аддзяленні Бел. культурна-асветнага т-ва. Да 1927 існавала Мін-ва бел. спраў. З 1932 да пач. 40-х г. у Каўнасе дзейнічаў клуб «Беларуская хатка».

Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР (вер. 1939) Літоўскай ССР у 1940 была перададзена тэрыторыя плошчай 2,6 тыс. км$^2$ (насельніцтва 82,1 тыс. чал., значная колькасць з іх літоўцы, а таксама беларусы, палякі). Да Літоўскай ССР амаль цалкам адышоў Свянцянскі, большая частка Гадуцішкаўскага р-на Вілейскай вобл.

У пасляваенны час з месц ранейшага кампактнага пражывання літоўскага насельніцтва на Беларусі адбываецца міграцыя ў Літоўскую ССР (больш актыўная ў 40—50-я г.), перасяленне ў буйныя паселішчы БССР (пераважна гарадскога тыпу). Разам з тым адбываецца перасяленне пэўнай колькасці Л. з Літоўскай ССР у БССР (у асноўным у гарады). Астраўкі літоўскага насельніцтва асталіся ў Астравецкім, Воранаўскім і Браслаўскім р-нах, адзінкавыя ўкрапіны ў Мсціслаўскім і інш. раёнах на У БССР. У асобных мясцінах (в. Малькаўка і інш.) літоўская мова захоўвае свае камунікатыўныя функцыі, у некаторых месцах выкладаецца ў школах (у 1957 у Астравецкім і Воранаўскім р-нах створана 8 школ з выкладаннем літоўскай мовы, засталося 3). Адна з праяў развіцця сучасных бел.-літоўскіх этнакультурных сувязей — стварэнне і дзейнасць у Вільнюсе пры Літоўскім фондзе культуры клуба аматараў бел. нар. творчасці «Сябрына» (з 1988).

У 1970 у БССР было Л. 8092 чал., у 1979 — 6993 (дадзеныя перапісаў). З іх у 1970 у Гродзенскай вобл. жылі 4224 чал., у Віцебскай — 1138, роднай мовай лічылі літоўскую 5602 чал., беларускую 1134. Каля 41 % Л. жылі ў гарадах. Нягледзячы на актыўныя працэсы этнакультурнага збліжэння, літоўскае насельніцтва ў шэрагу выпадкаў захоўвае асаблівасці побыту і культуры. Мігрантам з Літоўскай ССР уласціва больш трывалае захоўванне ўласных этнакультурных асаблівасцей.

*І. В. Кірашчанка.*



**Лодкі.**

**ЛІШТВА,** накладная гладкая ці фігурная планка вакол аконнага і дзвярнога праёма. Пашырана ў драўляным дойлідстве, прызначана закрываць пазы паміж аконнай каробкай і зрубам. Выконвае таксама дэкаратыўна-мастацкую ролю ў знадворным аздабленні жылля і грамадскіх пабудоў. Самы просты і найб. пашыраны ў старажытнасці від Л.— звычайная кругавая шалёўка пазоў акна. Больш развітая форма Л. складаецца з надаконніка, падаконніка і бакавін. Часцей за ўсё аздабляюцца надаконнікі, якія маюць лучковую, трохвугольную ці складана прафіляваную форму. Асноўныя сродкі аздаблення — краявая і скразная прапілоўка геаметрычнага, расліннага ці зааморфнага характару, прафіляваныя накладныя элементы, паліхромная расфарбоўка. Разьбяныя Л. вядомы з 11 ст. (фрагмент знойдзены пры раскопках Полацка ў 1959). Да 19 ст. простыя ці сціпла дэкарыраваныя Л. бытавалі пераважна ў манументальным дойлідстве, у афармленні жылля гарадоў і мястэчак. З сярэдзіны 19 ст. разнастайны дэкор Л. пашырыўся ў сялянскім жыллёвым будаўніцтве, што звязана са зменамі ў канструкцыі нар. жылля і з агульным развіццём нар. дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У сучасным нар. жыллёвым будаўніцтве на Міншчыне, Гродзеншчыне, З Віцебшчыны пашыраны Л. з гладкімі прафіляванымі ці фігурна выпілаванымі з адной дошкі надаконнікамі, з дэкорам геаметрычнага, зааморфнага ці расліннага характару. На цэнтр. Палессі (Пінскі, Столінскі р-ны) надаконнікі аздабляюцца шматслойнымі прафіляванымі накладкамі, токарнымі элементамі. На З Брэстчыны (Брэсцкі, Маларыцкі, Драгічынскі р-ны) дэкор на Л. звычайна адсутнічае, яны ўяўляюць сабой раму са скругленымі ці ламанымі абрысамі вуглоў. Л. на У Беларусі вызначаюцца шматпланавасцю кампазіцыі надаконнікаў, аздобленых шматслойнай ажурнай прапілоўкай расліннага характару, у аснове якой ляжаць два накіраваныя ў процілеглыя бакі завіткі з адгалінаваннямі. Разнастайнасцю і багаццем дэкору вы-

значающца Л. на У Гомельшчыны (Веткаўскі, Чачэрскі р-ны). Нескладаная прапілоўкай часта аздабляюцца падаконнікі і ніжнія канцы бакавін, выпілаваныя ў выглядзе трылісніка, кап'я, кутасоў. У некаторых месцах Л. дапаўняюцца *аканіцамі*, пашыранымі ў гарадскім і мястэчковым будаўніцтве 19— пач. 20 ст. Паўсюдна ўжываецца паліхромная расфарбоўка дэкаратыўных элементаў Л. *Я. М. Сахута.*

**ЛО́ВЫ**, паляванне без кідальнай зброі; у сярэднявеччы агульная назва здабывання дзікіх звяроў і птушак. Называлі таксама лавітва. Са змяншэннем гаспадарчай ролі *паляўнічтва* паступова набыло характар забавы ў асяроддзі заможных слаёў грамадства. У бел. мове слова «Л.» стала абазначаць два паняцці: паляўнічтва (усё, што датычыцца арганізацыі, выканання і спосабаў лову) і паляванне (сам працэс здабывання дзікіх звяроў і птушак).

**ЛО́ДКА**, назва рачных суднаў розных тыпаў, памераў і канструкцыі. Упершыню ўпамінаецца ў летапісах 13 ст. У перыяд позняга феадалізму тэрмін «Л.» паступова страціў збіральнае, абагульняльнае значэнне. З 19 ст. Л. сталі называць невялікае судна для рыбалоўства, плытагонства, палявання, мясцовых перавозак людзей і грузаў. Л. бываюць двух тыпаў: выдзеўбаныя аднадрэўкі (*човен, камяга*, дубіца, *дуб*, шугалея) і дашчаныя (лодка, дашчанік, чайка). Дашчаныя Л. пачалі вырабляцца ў 2-й пал. 19 ст. Да пач. 20 ст. дзякуючы сваёй зручнасці, лёгкасці, устойлівасці яны амаль поўнасцю выцеснілі традыцыйныя чаўны. У наш час рыбакі карыстаюцца дашчанымі Л., часта з матрам. *Н. І. Буракоўская.*

**ЛО́ЖАК**, від *мэблі*, прызначаны для адпачынку і сну. Вядомы з часоў сярэднявечча ў сядзібна-палацавых інтэр'ерах. Гатычныя Л.— масіўныя, дубовыя, простых прысадзістых форм; часоў рэнесансу і барока — з дугападобнымі спінкамі і выгнутымі ножкамі; класіцыстычныя і ампірныя — простых выразных форм. У нар. жыллі набылі пашырэнне з 19 ст., замяніўшы сабой у інтэр'еры хаты *пол* і *палаці*, часам бытавалі паралельна. Спінкі Л. звычайна змацоўвалі бакавінамі, на якія клалі дашчаны насціл, на яго сяннік і пасцель. Як прыналежнасць чыстай палавіны хаты, Л. аздаблялі па-рознаму: надавалі спінкам і ножкам адмысловыя абрысы, дэкарыравалі фігурнымі накладкамі, *фляндроўкай* і інш. На дзень Л. засцілалі *посцілкай* ці накідкай, клалі падушкі з узорыстымі навалачкамі. Сцяну каля Л. упрыгожвалі тканым ці маляваным *дыванам*. Нярэдка Л. з пасцельнымі прыналежнасцямі ўваходзіў у пасаг маладой. У наш час самаробныя драўляныя Л. выцясняюцца прамысловымі вырабамі: у 20—50-я г. металічнымі, у наш час — драўлянымі розных форм і відаў; традыцыйна аздабляюцца тканымі вырабамі прамысловай ці хатняй вытворчасці. *Я. М. Сахута.*

**ЛО́КАЦЬ**, адзінка вымярэння даўжыні ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага. Раўнялася 64,96 см.

**ЛО́КШЫНА**, самаробныя макароны. У некаторых мясцінах пашырана назва локша. Пшанічнае (радзей жытняе) цеста, часта з крухмалам, тонка раскачвалі, рэзалі, надсушвалі, варылі як рэдкую малочную страву ці адцэджвалі і залівалі тлушчам, салам. Робяць Л. таксама з крухмалу: пякуць наліснікі, потым рэжуць іх і вараць. Вядома Л. ў Цэнтр., Зах. і Паўд. Беларусі.

**ЛО́ПАЦЕНЬ**, дрэваапрацоўчы інструмент, прызначаны для вырэзвання адтулін у калодцы кола, кадаўба і інш. Называўся таксама лапацень. Уяўляў сабой спрошчаны варыянт свердла (гл. ў арт. *Свідравальныя інструменты*). Рабочая частка мела ўвагнутую лыжкападобную (лапатападобную) форму з вострымі краямі. На верхнім канцы Л. перпендыкулярна замацоўвалася ручка. Л. выкарыстоўвалі і ў бортніцтве для пракручвання ляткоў, гнёздаў для штыроў і для кантрольнага свідравання адтулін пры выбары бортных дрэў. *В. С. Цітоў, С. Ф. Цярохін.*



**Ложак.** Вёска Еськавічы Нясвіжскага раёна. Пачатак 20 ст.

**Лопацень.**

**ЛОТ**, адзінка вымярэння масы ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага. Раўнялася $^{1}/_{32}$ *фунта* — 11,71 г. Насельніцтва Беларусі карысталася гэтай адзінкай вымярэння да пач. 20 ст.

**ЛО́ЎЛЯ РА́КАЎ**, промысел сялянства, пашыраны ў канцы 19— пач. 20 ст. Развіццё яго было выклікана вялікім попытам на ракаў на зах.-еўрапейскіх рынках (звязана са знікненнем ракаў у вадаёмах Зах. Еўропы ў выніку хваробы — ракавай чумы). Лавілі ракаў спецыяльнымі прыладамі (*лібіламі* і двухгорлавымі *бучамі*) і рыбалоўнымі снасцямі (*брэднямі* і *крыгамі*). З бел. губерняў ракаў экспартавалі ў Германію, Польшчу, Францыю, Аўстрыю. Скупшчыкі і гандляры перавозілі іх у скрынях з імхом. У вёсках Вышэвічы, Хвойна, Лось, Ковічы, Маічыцы і інш. Мазырскага і Пінскага паветаў сяляне нарыхтоўвалі ракавыя шыйкі: іх сушылі ў печах і ў такім выглядзе збывалі скупшчыкам. Л. р. на экспарт была пашырана і ў 1930-я і 50-я г. У наш час Л. р.— аматарскі занятак. *І. М. Браім.*

**ЛО́ЎЧАЯ Я́МА**, выкапаная ў зямлі, перакрытая тонкімі жэрдкамі і замаскіраваная імхом і лісцем пастка для лоўлі ласёў, дзікоў, казуль, мядзведзяў, ваўкоў. Вядома з глыбокай старажытнасці; канструкцыйная прастата і універсальны характар абумовілі яе існаванне да 20 ст. Л. я.— першая і адзіная пастка, заснаваная на выкарыстанні цяжару самой жывёлы. Капалі ямы на звярыных пераходах, каля вадапояў і інш. Найбольш улоўнымі былі ямы ў праходах шматкіламетровых жардзяных платоў (наткнуўшыся на такі плот, звер ішоў уздоўж яго, збочваў у першы праход і трапляў у Л. я.). У мясцовасцях з мяккім і сыпкім грунтам Л. я. абшывалі плашкамі, тоўстымі дошкамі (тарчыцамі), жэрдкамі або забівалі ў цэнтры гладкі, завостраны зверху дубовы кол. Драпежнікаў прываблівалі мясам. Паводле звестак А. М. Семянтоўскага (Паляўнічтва і звярыныя промыслы ў Віцебскай губерні. Спб., 1863. С. 16—17), у 1860 у Полацкім пав. з дапамогай Л. я. было злоўлена шмат ласёў. Асобныя выпадкі лоўлі звяроў з дапамогай Л. я. зафіксаваны ў 1920-я г. ў Асіповіцкім р-не. *С. Ф. Цярохін.*



**Ложак.** Вёска Скарада Верхнядзвінскага раёна. Пачатак 20 ст.

**ЛУБ**, ліпавая кара разам з валакністай унутранай часткай. Л. нарыхтоўвалі з камлёвай часткі дрэў. З яго рабілі *корабы, лубянкі, калыскі*, палукашы для вазоў, ім пакрывалі рачныя судны.

**ЛУ́БКА**, пасудзіна з лубу; тое, што і *лубянка*.

**ЛУБО́К**, народная карцінка, выява з подпісам, адметная прастатой і даходлівасцю вобразаў; від графікі. Першапачаткова — від нар. творчасці. Да Л. адносяць і творы прафесійнай графікі, якія пераймаюць лубачна-фальклорныя прыёмы. У бел. мастацтве Л. вядомы з 16 ст. Прыёмы яго выкарыстаны ў віленскіх выданнях Ф. Скарыны (асобныя дрэварыты ў «Малой падарожнай кніжцы», 1522), у ілюстрацыях бел. друкарняў Вільні, Еўя, Заблудава, Куцейны, Магілёва. Лубачныя карцінкі былі пашыраны на Беларусі ў 18—19 ст. Сярод іх асаблівай папулярнасцю ў народзе карысталася карцінка «Аніка-ваяка і смерць» — варыяцыя сярэдневяковага казання «Спрэчка Жыцця са Смерцю». Лубачныя карцінкі ўплывалі і на інш. віды нар. творчасці, у прыватнасці на нар. тэатр. Так, амаль цалкам у паказах нар. драмы «Цар Максімілян» (у рэчыцкіх запісах 1898 і 1923) выкарыстоўвалася лубачная карцінка «Аніка-ваяка і смерць». Сцэна ўключала выхваленне-самарэкамендацыю Анікі, яго т. зв. торг са смерцю (просіць у смерці адтэрміноўкі на 3 гады, 3 месяцы, 3 дні, 3 гадзіны — са светам развітацца). У розных варыянтах гэта сцэна бытавала і ў інш. запісах «Цара Максіміляна» (напр., скарочаная, без торгу, зафіксавана ў запісе Е. Р. Раманава). Ёсць яна і ў нар. драме «Трон» у запісе 1899 М. К. Васільева ў скарочаным выглядзе (у сюжэце «Цар Ірад»), але замест Анікі ў ёй дзейнічаў цар Ірад (ён вёў т. зв. торг са смерцю). У скарочаным выглядзе (без торгу) і з удзелам цара Ірада ўжывалася сцэна і ў *батлейцы*. Разыгрывалася ў батлейцы і лубачная карцінка «Слаўнае пабоішча Аляксандра Македонскага з індыйскім царом Порам» (зафіксавана Раманавым на Віцебшчыне, 1898).

*Дз. У. Стэльмах* (лубок у тэатры).

**ЛУБЯ́НКА**, пасудзіна з лубу (кары ліпы і інш. дрэў) на ягады, грыбы і інш. Звычайна цыліндрычнай формы. Выкарыстоўвалася і як *сявенька*.

**ЛУ́ЖЫЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён бронзавага і ранняга жалезнага вякоў (15—4 ст. да н. э.), якія жылі на тэр. ад Балтыкі да Дуная і ад р. Шпрэе да Валыні і Зах. Палесся (р. Ясельды і Стыра). Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, выплаўкай бронзавых рэчаў, потым жалеза, дапаможны характар мелі рыбалоўства і паляванне. Іх невялікія неўмацаваныя паселішчы складаліся з некалькіх наземных жытлаў слупавой канструкцыі; пазней жылі на гарадзішчах, умацаваных драўляным частаколам, у 1- і 2-камерных паўзямлянках (памеры 4×5,8×10 м) з глінабітнымі печамі ці агнішчамі ўсярэдзіне. Жытлы мелі сцены з плятня, абмазанага глінай, і двухсхільную страху. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных могілках, пахаванні ў урнах і ямах, трапляюцца курганы і пахавальны абрад трупапалажэння. Насельніцтва выраблялa нізкія амфарападобныя расшыраныя ў ніжняй частцы пасудзіны, кубкі з вял. ручкай, вазы, упрыгожаныя заштрыхаванымі трохвугольнікамі, арнаментальнымі паясамі на плечуках пасудзін, некаторыя з шурпатай паверхняй. Сярод упрыгожанняў — разнастайныя бронзавыя шпількі і фібулы, бранзалеты, шыйныя грыўні і інш. Плямёны Л. к. некаторыя даследчыкі лічаць продкамі славян.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ЛУКНО́**, старадаўняя адзінка вымярэння, пераважна мёду. Згадваецца ў «Рускай праўдзе». У актавых матэрыялах 16 ст. вагавы эквівалент Л. не мае пэўнага вызначэння: у адных дакументах ён роўны 10 пудам, у другіх — 50 фунтам. Л. называлі і пасудзіну для захоўвання мёду, аднак памер яе невядомы. У адным з актаў (1449) гаворыцца пра «пятипудное лукно мёду». Было таксама адзінкай штогадовай мядовай даніны.

*С. Ф. Цярохін.*



Корабы з лубу.

**ЛУЦКЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч (28.5.1881, г. Шаўляй Літ. ССР — 20.8.1919), беларускі археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Маскоўскім археалагічным ін-це, Пецярбургскім ун-це. У Пецярбургу ўдзельнічаў у стварэнні «Круга беларускай народнай прасветы і культуры» (1902), у выданні «Калядная пісанка на 1904 год» (1903), «Велікодная пісанка» (1904), у зборніку «Вязанка» (1903) выдаў літаратурную спадчыну Я. Лучыны. Адзін з арганізатараў і член ЦК Бел. сацыялістычнай грамады. Удзельнічаў у арганізацыі Т-ва сяброў навук (1907), Бел. выдавецкага т-ва (1913), навуковага т-ва (1918) у Вільні. Адзін з ініцыятараў і арганізатараў выдання першых бел. легальных газет «Наша доля» і «Наша ніва», першых бел. пачатковых школ, бел. настаўніцкіх курсаў (1915—16, Вільня); уваходзіў у склад рэдакцый газет, спрыяў змяшчэнню на іх старонках археалагічных і краязнаўчых матэрыялаў. У «Нашай ніве» змяшчаў краязнаўчыя допісы, фотаздымкі (пад псеўданімам Шчасны). Аўтар публікацыі «Аб беларускім мастацтве» («Гоман», 1918), дзе ўзнімаў пытанне пра вывучэнне бел. мастацка-выяўленчай традыцыі 15—18 ст. (іканапіс, ткацтва, кніжная графіка). Адзін з арганізатараў бел. выстаўкі старажытнасцей, нар. творчасці (Вільня, Мінск, 1918). Вёў археалагічныя і этнагр. даследаванні, вывучаў страж. гісторыю Беларусі, адкрыў і апісаў Аль-Кітаб. Ініцыятар стварэння *Беларускага музея* ў Вільні (у аснову пакладзены яго ўласныя калекцыі: слуцкія паясы, кнігі Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, Статут Вял. кн. Літоўскага 1588, археалагічныя і этнагр. рэчы і інш.), першай бел. гімназіі. Дзейнасць Л. зрабіла ўплыў на творчасць бел. пісьменнікаў Я. Купалы, М. Багдановіча, З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага, Л. Родзевіча. Падтрымліваў сяброўскія і творчыя сувязі з Цёткай, Б. І. Эпімах-Шыпілам, Я. Ф. Карскім, Ядвігіным Ш., А. А. Шахматавым, В. П. Брусавым, І. С. Свянціцкім, М. С. Грушэўскім, Ф. Рушчыцам, Е. Янкоўскім і інш.

*А. К. Кайко, Г. А. Каханоўскі.*

**ЛУЧНІК**, светач, дзед, прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны ці смалістых корчыкаў. Паводле канструкцыі і месца ў *інтэр'еры хаты* падзяляліся на пераносныя (рухомыя) і стацыянарныя. Сярод рухомых Л. вылучаліся звычайныя (стаячок, паніч) і падвесныя (мелі шэраг разнавіднасцей). Звычайны Л. уяўляў сабой стойку (з крыжападобнай або суцэльнай асновай), на верхнім канцы якой замацоўваўся клямар для лучыны, пад яе звычайна ставілі карытца ці інш. пасудзіну з вадой. Часам у выглядзе карытца рабілася сама аснова Л. Функцыянальна больш зручнымі былі Л., вышыня якіх і становішча лучыны рэгуляваліся нерасоўкай. Падвесны Л. уяўляў звычайна кароткі кій з клямарам для лучыны на адным канцы і з кругом, якім Л. чапляўся за шасток каля печы ці ў гасп. куце,— на другім. Часам лучыну палілі ўваткнуўшы яе ў шчыліну сцяны ці печы. З гэтай мэтай выкарыстоўвалі і спецыяльны клямар (бабка), што прыбівалі ў гаспадарчым кутку. Стацыянарны Л. (светач, свецеч, посвет) складаўся з трубы-дымахода і гарызантальна падвешанай пад ёй жалезнай рашоткі (залеза), дзе палілі *асмол*. Найбольш практычным быў смалісты корчык, што доўга гарэў і даваў яркае святло. Дымаход такога Л. меў лейкападобную, расшыраную ўнізе форму, верхняя яго частка выходзіла вонкі праз гарышча і дах. У залежнасці ад матэрыялу і спосабу вырабу вылучаліся некалькі тыпаў дымаходаў: плецены з лазы ці чароту (абмазваўся знутры глінай), керамічны, драўляны (выдзёўбвалі са ствала дрэва ці збівалі з чатырох пласцін), палатняны (каптур, мяшок; у процiпажарных мэтах насычалі мелам ці вапнай), жалезны. Нярэдка пад дымаходам падвешвалі або ставілі на рашотку *каганец*. У больш старажытных светачах жалезная рашотка адсутнічала, а корчык ці трэскі палілі на ўладкаваным пад раструбам абмазаным глінай памосце ці плоскім камені. Тут адначасова маглі і падаграваць вячэру. Стацыянарны Л. генетычна звязаны са стараж. *агнішчам*. Л. з дымаходам быў пашыраны ў Цэнтр. Беларусі і на Палессі. Л. ўжываліся ў сялянскім побыце да пач. 20 ст., у асобных месцах — да 1930-х г. З 2-й пал. 19 ст. для асвятлення хаты сталі выкарыстоўваць спецыяльны камінак, які ўладкоўвалі ў куце прыпечка.

*В. С. Цітоў.*



Лучнікі: 1, 2 — стацыянарныя; 3, 4, 5, 8 — рухомыя звычайныя, 6, 7 — рухомыя падвясныя.

**«ЛУЧЫ́НІЦА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Перад выкананнем танца на падлозе крыжнакрыж кладуць дзве лучыны. Дзяўчына робіць па (танцавальны крок) у правым ніжнім вугле, потым праходзіць у левы ніжні, адтуль — у левы верхні, затым — у правы верхні і г. д. Танец грацыёзны, але складаны для выканання. Танцоры, пераскокваючы з квадрата ў квадрат, павінны не зачапіць лучынак. Сцэнічна апрацаваны і выдадзены балетмайстрам І. Серыкавым (1964).

*А. Л. Варламаў.*



Лыжка. Пачатак 20 ст.



Лыжкі.

**ЛЫ́ЖВА**, хадавое кругладоннае судна з дахам, вострым носам, тупой кармой і разгорнутымі бартамі. Даўжыня 21—60 м, шырыня 4—8 м. Будавалі Л. ў басейнах Дняпра і Прыпяці.

**ЛЫ́ЖКА**, прадмет сталовага прыбора. Бываюць драўляныя, металічныя, касцяныя; маюць круглы ці авальны чарпачок і ручку-дзяржанне. На Беларусі вядомы з ранняга сярэднявечча. Касцяныя Л., аздобленыя гравіраваным арнаментам у выглядзе пляцёнкі, сеткі, крыжыкаў, знойдзены пры раскопках Пінска, Давыд-Гарадка, Турава, Полацка і інш. У асяроддзі пануючых класаў бытавалі Л. з каляровых і каштоўных металаў, багата аздобленыя на дзяржаннях гравіраваннем, чарненнем, эмалямі і інш. У нар. асяроддзі бытавалі драўляныя Л. (з асіны, бярозы, грушы)

простых форм, зрэдку аздобленыя на дзяржаннях трохграннымі выемкамі, косымі рыскамі, аб'ёмнымі выявамі рыбіных галовак і інш. Вялікую Л. называлі *апалонікам*. Выраб Л. нярэдка меў характар промыслу, якім займаліся майстры-лыжачнікі. У наш час у паўсядзённым побыце карыстаюцца металічнымі Л. прамысловай вытворчасці. Вырабам драўляных Л. сувенірнага і утылітарна-мастацкага прызначэння з разьбой, размалёўкай, выпальваннем займаюцца некаторыя нар. майстры, а таксама прадпрыемствы мастацкай прамысловасці.

Драўляныя (кляновыя) і металічныя (алюмініевыя) Л. выкарыстоўваюцца таксама ў нар. музычным мастацтве Віцебшчыны і некаторых раёнаў Міншчыны. Беларусы ў адрозненне ад рускіх бяруць толькі дзве лыжкі, якія ў час ігры павapочваюць адна да адной выпуклым бокам. У інструментальных ансамблях Л. выконваюць ударна-рытмічную функцыю, дапаўняючы часам бубен. У музычную практыку беларусаў Л. ўвайшлі ў 1920-я г., калі ў рэспубліцы пашырыліся ансамблі і аркестры нар. музычных інструментаў.

*Я. М. Сахута, І. Дз. Назіна.*

**ЛЫКА**, ліпавая або лазовая кара, з якой плялі *лапці, вярэнькі*, кошыкі, вілі вяроўкі — лычакі. Л. дралі ў маі — чэрвені. Скруткі Л. (матушкі) вешалі ў клеці, на гарышчы хаты. Нарыхтоўвалі таксама луццё — тонкія жэрдкі з карой. Зімой Л. размочвалі ў цёплай вадзе, каб яно было эластычным, а луццё распарвалі ў печы, здымалі з яго Л.

**ЛЫКА**, даўняя адзінка вымярэння даўжыні на Беларусі. Даўжыня яго была такая, як і *шнура*,— прыблізна 49 м. З метрычным значэннем слова «Л.» выяўлена толькі ў старабел. мове. Ужывалася слова «Л.» і са значэннем мернай прылады.

**ЛЮБАЎСКІ** Мацвей Кузьміч [1(13).8.1860, в. Вялікія Мажары Сараеўскага р-на Разанскай вобл.— 22.11.1936], савецкі гісторык. Акадэмік АН СССР (1929; чл.-кар. з 1917). Скончыў Маскоўскі ун-т (1882), працаваў у ім у 1901—17 (прафесар, з 1911 рэктар). Член Бел. навукова-культурнага т-ва ў Маскве (1918—19). У 1931—36 супрацоўнік Башкірскага НДІ нацыянальнай культуры ў Уфе. З 1913 старшыня Т-ва гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім ун-це. Асн. працы прысвечаны гісторыі Вял. кн. Літоўскага 14—16 ст., сацыяльна-палітычным і этнакультурным адносінам паміж усх.-слав. (у асн. бел. і украінскім) і літоўскім народамі. Падкрэсліваў значную ролю і некаторыя асаблівасці палітычна-прававога, эканам., дэмаграфічнага і культурнага становішча бел. і украінскіх зямель у складзе Вял. кн. Літоўскага ў 14—1-й пал. 16 ст. Вывучаў пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў, украінцаў, літоўцаў і інш. народаў. Стараж. продкамі беларусаў лічыў пераважна полацкіх крывічоў, на зямлі якіх, як адзначаў Л., прыпадае большая частка этнагр. элементаў, з якіх складалася бел. племя. Фарміраванне бел. народнасці, на яго думку, адбылося ў 13—14 ст. на Полацкай зямлі ў выніку міжэтнічнага ўзаемадзеяння славян і літоўскага насельніцтва. У 15—16 ст. найб. характэрныя этнагр. рысы і назва Белая Русь распаўсюдзіліся з Полацкай зямлі амаль на ўсю тэр. Беларусі. Аднабокі падыход да праблемы паходжання беларусаў і пераболыпванне ролі этнагр. ўплыву насельніцтва Полацкай зямлі на інш. тэрытарыяльныя групы не змяншаюць навук. значнасці этнагенетычнай канцэпцыі Л. Вялікі фактычны матэрыял яго прац робіць іх каштоўнымі і ў наш час.

*Тв.*: Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900; Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Основные моменты истории Белоруссии. М., 1918. *І. У. Чаквін.*

**ЛЮБЕЦКІ ЛЕ́МЕНТ**, адна з жабрацкіх *умоўных моў*. Была пашырана ў Мсціслаўскім, Чавускім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім пав. Магілёўскай губ. Носьбітаў Л. л. ў кожным павеце людзі называлі па-рознаму (старцы, калекі, сляпцы, жабракі), самі сябе ж яны звалі любкамі (адсюль назва мовы). Узнік Л. л. у глыбокай старажытнасці разам з жабрацкім самакіраваннем (з мэтай скрыць свае распараджэнні ад пабочных людзей). У лексічных і словаўтваральных адносінах блізкі да *катрушніцкага лемезня*. У канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў запісаў каля 1000 слоў Л. л. У галіне лексікі ад інш. жабрацкіх умоўных моў (*выцірняцкага гайрыдніка, семежаўскіх жабракоў мовы*) адрозніваўся пашыранасцю агульнаўжывальных бел. слоў, зацемненых спецыфічнай прыстаўкай «ку-» (звычайна на яе пераносіўся націск: «ку́вецер» — вецер, «ку́человек» — чалавек), ужываліся таксама словы з устаўкай-прыстаўкай «шо-» («шоле» — поле), устаўкай «-ймодз-» («лаймодзясковый» — ласкавы), суфіксамі «-имн-» і «-омн-» («жовтимный» — жоўты, «хитромный» — хітры). Частку лексікі складалі вузкадыялектныя словы («гломызда» — старшыня, «лох» — мужчына), запазычанні з інш. моў (з грэч., «петрус» — камень, «ахвес» — бог; з цыганск., «пяньджа» — пяць; з ідыш., «махаль» — нож). У фанетычных адносінах характарызаваўся асаблівасцямі гаворак Усх. Магілёўшчыны (напр., мяккім «р»: «цэрь» — зямля, «скирья» — тры). Граматычная будова таксама беларуская. З цягам часу Л. л. аддаліўся ад першапачатковага стану і быў выцеснены т. зв. *адверніцкай гаворкай*. Фальклорных твораў на Л. л. не зафіксавана. *У. М. Свяжынскі.*

**ЛЮ́ДЗІ РАБО́ТНЫЯ**, катэгорыя насельніцтва ў 16—18 ст.; тое, што і *найміты*.

**ЛЮЗ**, сплаўное пласкадоннае судна для транспарціроўкі лесаматэрыялаў па Дняпры. Выкарыстоўваўся ў 19 ст. на адзін рэйс у час веснавой паводкі, сплаўляўся нават праз парогі. Грузападымальнасць 8—40 т, найбольшыя памеры: даўжыня да 60 м, шырыня да 14 м.

**ЛЮЛЬКА**, выраб, прызначаны для курэння тытуню. Лакальная назва пінка. Рабілі з дрэва, гліны, металу, косці, каменю ў выглядзе галоўкі з чашкай для тытуню і цэўкі з гнядом для цыбука. На Беларусі вядома з канца 16 ст. (адначасова са з'яўленнем тытуню). Л. падбіралі пад асабісты густ, характар і звычкі. Адсюль павышаная патрабавальнасць да яе унікальнасці, да выяўлення мастацкіх якасцей матэрыялу, з якога яна зроблена, колеру, фактуры. Л. рабілі з керамічных мас: чырвонай і белай гліны, фаянсу, паўфаянсу, мяккага і цвёрдага фарфору. Л. багата аздаблялі рэльефным геаметрычным і раслінным арнаментам, аб'ёмнымі выявамі чалавека і жывёл, жанравымі сюжэтамі; часам кераміку спалучалі з каштоўнымі пародамі дрэва, металічнымі аправамі, накрыўкамі, ланцужкамі. *У. В. Угрыновіч.*



Люлькі. 17 ст.

**ЛЮЛЬКА**, даўні від народнай мэблі; тое, што і *калыска*.

**«ЛЮСТРА»**, традыцыйны танец. У некаторых мясцовасцях называўся «Люстэрка». Захаваў сувязь з *карагодам*. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. На Гродзеншчыне ўдзельнікі, узяўшыся за рукі і стварыўшы круг, рытмізаваным крокам беглі то ў адзін бок, то ў другі. Спыняліся для таго, каб саліст, які стаяў у цэнтры, выбраў каго-небудзь з удзельнікаў на сваё месца. Канчаўся танец тым, што выканаўцы павольна сыходзіліся ў цэнтры круга, потым вярталіся на свае месцы і ўздымалі ўгору злучаныя рукі. На Магілёўшчыне «Люстэрка» існавала ў выглядзе карагода, які паступова пераходзіў у танец з пацалункамі і рознымі жартамі. Дзенідзе саліст танцаваў імправізавана. Пашырана было «Люстэрка» ў выглядзе фігур *кадрылі*. *Ю. М. Чурко.*

**ЛЮСТРАЦЫІ**, праверка эканамічнага стану дзяржаўнай нерухомай маёмасці, вызначэнне прыбытковасці і ўстанаўленне памераў даходу ў казну; гл. ў арт. *Рэвізіі*.

**«ЛЯВО́НІХА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Традыцыйная «Л.» — парна-масавы танец, які выконваўся вялікай колькасцю пар. Харэаграфічная кампазіцыя складалася з традыцыйных малюнкаў (круг, зорачка, змейка, шэн, варотцы і г. д.), з розных пераходаў парамі або лініямі са зменай партнёраў і кружэннем у парах, узяўшыся пад рукі. На вяселлі «Л.» была галоўным танцам, а на вячорках выконвалася пасля «Лянцея» і суправаджалася разнастайнымі жартоўнымі прыпеўкамі, напр.:

А Лявоніха не ладна была,
Нямытую мне кашульку дала.
Не мытую, не качаную,
У суседа пазычаную.

Акрамя традыцыйнай «Л.», сустракаюцца і інш. харэаграфічныя варыянты. Так, у в. Галачоўка Чавускага р-на



**«Лявоніха».** Выконваюць удзельнікі фальклорнага калектыву з вёскі Малочкі Пружанскага раёна.

«Л.» танцавалі жанчыны ўпрысядкі (далонню правай рукі ўпіраліся ў падбародак, а локаць апускалі на правае калена, левая рука была адвольна апушчана і дапамагала руху). Танец насіў жартоўна-іграві характар. У в. Дубнякі Кіраўскага р-на «Л.» танцавалі зачэпліваючы нагой за нагу. Своеасаблівы варыянт «Л.» бытаваў у в. Палажына Бярэзінскага р-на. Юнакі і дзяўчаты браліся за рукі і станавіліся кругам. Затым дзяўчаты, апіраючыся на абцасы у цэнтры круга і на выцягнутыя рукі юнакоў, якія раскручвалі круг, на абцасах ішлі следам за імі. У г. п. Любча Навагрудскага р-на «Л.» пачыналі танцаваць юнакі: адзін за другім выходзілі ў круг, кожны выбіраў сабе дзяўчыну ў пару і паклонам запрашаў яе танцаваць. Тым часам дзяўчаты спявалі жартоўныя прыпеўкі:

Хадзі не хадзі, твая не буду.
Выйду за вароты, цябе забуду.

У некаторых рэгіёнах «Л.» выконвалася як сольны танец. Выканаўцы па аднаму выходзілі ў сярэдзіну круга і



Бортнік з **лязівам.** Ігуменскі павет Мінскай губерні.

танцавалі, хто як мог. Рухі танцораў былі самымі рознымі (дробат, галоп, прытупы, просты крок, падэбаск і г. д.), суправаджаліся пляcканнем у далоні. «Л.» шырока вядома па ўсёй Беларусі. Надала асаблівы нацыянальны каларыт першым бел. балетам.

*В. В. Шапавалава.*

**ЛЯ́ДА**, участак, на якім лес высякалі і спальвалі, а зямлю выкарыстоўвалі пад ворыва. Лядная земляробства вядома з эпохі неаліту, на Палессі — з 4-га тысячагоддзя да н. э.; у канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. пашырылася да Падзвіння. У бронзавым веку — асноўная сістэма гаспадаркі. Лядна-агнявым земляробствам займаліся плямёны штрыхаванай керамікі культуры і днепра-дзвінскай культуры, дрыгавічы, крывічы, радзімічы і інш. слав. плямёны. Эпізадычна выкарыстоўвалася яно яшчэ ў 19 ст. Тэрмін «Л.» найбольш вядомы на У Беларусі, у зах. раёнах участкі ворнай зямлі з-пад лесу часцей называлі расчыстка, навіна, выдзер, пасека, падсека. Хваёвы лес пад Л. для яравых звычайна высякалі ўвосень і выпальвалі вясной, чарналессе секлі вясной, адначасова з палявымі работамі. Расчышчала Л. ўся сям'я. Жанчыны і падлеткі секлі хмызняк, мужчыны — вял. дрэвы, карчавалі пні. Усё, што заставалася пасля вывазу высечанага лесу, спальвалася. Агонь служыў і своеасаблівым спосабам апрацоўкі зямлі (згараў верхні травяны пласт глебы, лепш прарастала насенне без глыбокага рыхлення). На Л. некалькі гадоў без угнаення атрымлівалі добры ўраджай. У першы год сеялі проса, на другі — жыта, на трэці — яравыя, на чацвёрты пакідалі ўчастак пад папар і ён уваходзіў у круг трохпольнага севазвароту. Наяўнасць карэння і пнёў перашкаджала шырокаму вы-



**Лязіва.** Завязванне пятлі для падымання на бортнае дрэва перакідам.

карыстанню ворных прылад і цяглавай сілы, таму Л. часцей за ўсё апрацоўвалі ўручную (матыкай). Саху для Л. рабілі больш лёгкай, з кароткімі лемяхамі, а на Паазер'і — з паліцай-перакладкай або зусім без яе, баранавалі звычайнай *вершалінай*, радзей — *смыком*. Ад Л. паходзяць назвы некаторых населеных пунктаў.

*Л. І. Мінько.*

**ЛЯ́ЗІВА**, прыстасаванне, з дапамогай якога лазілі на бортныя дрэвы. Называлася таксама лазва, ліна, жэнь, плець. Уяўляла плецёную з пяці сырамятных палосак скуры ці канапляных вітых шнуркоў вяроўку (25—30 м) з сядзёлкай (крэсла, лазьвеня) на адным канцы, дзвюма петлямі ці драўляным круком на другім і перасоўным казлом (хобат) паміж імі. У 16 ст. Л. часта рабілі і з лыка, трываласцю яно мала саступала канаплянаму, было лягчэйшым. Л. мела рэгіянальныя асаблівасці, што абумоў-

лівала розную тэхніку пад'ёму на бортныя дрэвы. Пры пад'ёме пацягам (Століншчына) бортнік перакідаў Л. цераз тоўсты сук, садзіўся на сядзёлку і, адпіхваючыся нагамі ад ствала дрэва, сам сябе падцягваў угору, на патрэбнай вышыні мацаваў на галіне крук і спускаўся да адтуліны борці. На Гродзеншчыне існаваў спосаб пад'ёму чашкай: бортнік ахопліваў двайной пятлёй сябе і дрэва так, каб паміж ім і ствалом заставалася адлегласць 70—80 см, паднімаўся ўгору па чашках — неглыбокіх зарубках на ствале. Пры пад'ёме перакідам замест чашак выкарыстоўвалі падобныя на стрэмя петлі, якія бортнік рабіў папераменна для кожнай нагі, абвіваючы Л. некалькі разоў ствол дрэва. На невысокія дрэвы і дрэвы з подкурам узлазілі па *астровах*. *С. Ф. Цярохін.*

**ЛЯ́МЕЦ,** валены матэрыял з воўны. Выкарыстоўваўся са стараж. часоў для вырабу конскай збруі (хамутоў, падсядзёлкаў, потнікаў, запонаў), галаўных убораў (шапак-магерак, капелюшоў), з 19 ст.— і абутку (валёнак). Для вырабу Л. замочаную ў гарачай вадзе воўну некалькі разоў камячылі рукамі або нагамі, раскочвалі драўлянымі і жалезнымі *качалкамі*, пасля сушкі расчэсвалі жалезнай шчоткай. У наш час рымарскі і тэхнічны Л. выпрацоўваюць на вытворчым аб'яднанні валюшна-лямцавых вырабаў з галаўным прадпрыемствам у г. п. Смілавічы і філіялах у Бабруйску і Навагрудку. *Н. І. Буракоўская.*




**Лязіва:** 1 — фрагмент лязіва з казлом, сядзёлкай; 2 — лежая; 3 — канструкцыя казла.

**ЛЯМЕ́ШКА,** рэдкаватая страва з мукі. Жытнюю муку (у Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім р-нах — грэцкую) падпражвалі, потым засыпалі ў круты вар або залівалі ім, варылі ў печы пры агні. Кажуць: «З аднаго мешка хлеб і лямешка», «За лыжкаю лямешкі трэба ісці сто кіламетраў пешкі». У наш час Л. могуць называць зацірку, рэдкі кулеш, мяшанку жывёле. Вядома на Брэстчыне, Гомельшчыне, Магілёўшчыне.

*Г. Ф. Вештарт.*



**Лязіва.** Падыманне на бортнае дрэва пацягам.



**Лямус.** Вёска Новыя Ясневічы Пастаўскага раёна. Здымак 1924.

**ЛЯ́МУС** (ад ням. Lehmhaus), старадаўні тып гаспадарчай пабудовы для захоўвання харчовых прадуктаў, збожжа, адзення, каштоўнай маёмасці, прылад працы, а таксама для жылля ўлетку. Вядомы з 16 ст. Будавалі з дрэва, цэглы, каменю або ў тэхніцы «прускага муру». Былі 1—3-павярховыя (у ніжнім паверсе гаспадарчыя памяшканні, у верхніх — жылыя), прамавугольныя або квадратныя ў плане, завершаныя 2-схільнымі вальмавымі шатровымі або ламанымі стрэхамі. Сцены часам звонку атынкоўвалі. Пад Л. рабілі паграбы. Паводле кампазіцыі Л. падзяляліся на цэнтрычныя і франтальныя. Л. цэнтрычнай кампазіцыі мелі квадратны або шматвугольны (звычайна 8-гранны) план. 2-і і 3-і паверхі былі з балюстраднымі *галерэямі* па перыметры (Ашмяны, в. Вялікае Мажэйкава Шчучынскага, в. Новa-Ясневічы Пастаўскага р-наў). Л. франтальнай кампазіцыі былі звычайна 2-павярховыя, мелі ў плане форму выцягнутага прамавугольніка (радзей квадрата), з галерэямі на галоўным фасадзе (Гродна, в. Завоссе Баранавіцкага р-на) або па перыметры ўсяго будынка. У некаторых замках 18 ст. (г. Камянец) Л. размяшчаліся над брамамі. У канцы 18—19 ст. Л. набылі манументальны выгляд: цэнтр галоўнага фасада вылучаўся прамавугольным парталам з калонамі, ашаляваныя звонку сцены былі ўпрыгожаны фрызамі, над будынкамі ўзвышаўся бельведэр (в. Дунілавічы і Крыкалы Пастаўскага р-на). *Ю. А. Якімовіч.*

**«ЛЯНО́К»,** старадаўні карагод. Музычны памер двухдольны. Тэмп ад павольнага да ўмерана хуткага. Належыць да групы карагодаў, якія адлюстроўваюць працоўную дзейнасць чалавека. Удзельнікі карагода суправаджалі спеў ілюстрацыйнымі, пераймальнымі рухамі — пра сяўбу, уборку, апрацоўку льну. Асноўны малюнак «Л.» — круг, у цэнтры якога салістка пачынала спяваць, а ўдзельнікі карагода падпявалі. На Магілёўшчыне спявалі:

Як пасею я лянок
Пры дарозе, пры лужку.
Ой лі, о ха-ха,
Пры дарозе, пры лужку.

(У кожным куплеце паўтараецца другі радок).

Мне сказалі, што мой лён,
Ён прыбіт і прывалён.
Як была я малада
Танкапраліцай была...

Удзельнікі карагода хадзілі, прытупваючы, парамі па крузе. Салістка паказвала, як сеяла, прыбівала лён і інш.



**«Лянок».** Выконвае жыхарка вёскі Берастабічаны Бераставіцкага раёна.

На Віцебшчыне карагод суправаджаўся песняй:

Ох, я сеяла, сеяла лён,
Я сеяла, прыгаварывала,
Чобатамі прыкалачывала.
Ты ўдайся, ўдайся, мой лён,
Ты ўдайся, мой беленькі...

У в. Куранец Вілейскага р-на зафіксаваны іншы варыянт карагода «Л.»: выканаўцы (юнакі і дзяўчаты) станавіліся ў два рады адзін супраць другога. Першымі рухі пачыналі дзяўчаты, а хлопцы падпявалі. У наступным куплеце ролі мяняліся. Танец суправаджаўся песняй:

Урадзіўся на полі наш лянок,
Наш шаўковы кужалёк.
Ах, мы сеялі, сеялі лянок.

Потым спявалі пра тое, як лянок палолі, рвалі, малацілі, церлі, трапалі, пралі, снавалі, бялілі. І канчалі словамі песні:

Сшыла Ганна (ці любое іншае імя)
Сабе кашульку.

«Л.» вядомы па ўсёй Беларусі.

*С. В. Гуткоўская.*

**«ЛЯНЦЕ́Й»**, танец, які ўваходзіў у групу кадрыляў. У пач. 19 ст. быў пашыраны ў краінах Зах. Еўропы пад назвай «Лантье», з пач. 20 ст. стаў масавым танцам на Беларусі, пашыраным і ў горадзе, і на вёсцы. Прастата рухаў, разнастайнасць кампазіцыйных пабудоў падабаліся сельскім жыхарам, у выніку «Л.» асіміляваў рысы бел. нар. харэаграфіі і набыў азначэнні «беларускі» і «народны». У наш час «Л.» бытуе адначасова з кадрыллю і як самастойны танец. Часам колькасць фігур у ім дасягае 12: «кола», «пераходы», «здароўканне», «ва саду лі», «сварацца», «барыня», «полька» і інш. Ад жывой і хуткай кадрылі адрозніваецца паводьным характарам выканання (таму танцоры называюць яго «Лявівы»). Колькасць пар у танцы неабмежаваная, але павінна быць цотнай. Абавязковымі з'яўляюцца характэрныя для бел. танцавальнага фальклору малюнкі (кругі, крыжы, вароты, калоны, лініі, зорачкі і інш.), калены (розныя кручэнні парамі, «ныранні» трох удзельнікаў пад рукі адзін другому і інш.), асноўныя хады (рытмізаваны крок і бег), рухі (падэбаск, шасе, глісады, прытупы і інш.). Часта ў «Л.» уключаюцца асобныя фігуры традыцыйных ці гарадскіх бытавых танцаў. Пашыраны па ўсёй Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*

**ЛЯПЁХІН** Іван Іванавіч (10.9.1740, Пецярбург — 6.4.1802), рускі падарожнік, натураліст, этнограф. Чл. Пецярбургскай АН (1771). Скончыў Пецярбургскі (1762) і Страсбургскі (1767) ун-ты. Асн. праца — «Дзённыя запіскі падарожжа... па розных правінцыях Расійскай дзяржавы...» (ч. 1—3, 1771—80; ч. 4, 1805), дзе апісана экспедыцыя АН у 1768—72, кіраўніком якой Л. быў. У 1773 даследаваў Беларусь і Прыбалтыку (экспедыцыя апісала прыроду, побыт народа, склала гербарый бел. флоры). Рабоце экспедыцыі прысвечаны арт. «Экспедыцыя акадэміка І. І. Ляпёхіна на Беларусь і ў Ліфляндыю ў 1773 г.» В. П. Тарановіча (1935).

**ЛЯСКА**, доўгі абструганы шэст (жэрдка) для кіравання плытам, паромам, лодкай. Меў завостраны канец для ўпору ў дно ракі. Л. выкарыстоўваліся на рэках Палесся.

**ЛЯСУН**, л е с а в і к, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў; гаспадар лесу і звяроў, які жыве ў лясных нетрах. Называўся таксама пушчавік. Яго ўяўлялі ў выглядзе вялізнага (у рост дрэва) старога чалавека з белым, як бяроста, тварам, з вялікімі вачыма, у звярынай шкуры. Л. мог, нібыта, паказваць грыбныя і ягадныя мясціны, наганяць у бок паляўнічага звяроў і птушак, выбіраць бортнікам месца для ўстаноўкі калод, а таксама прымусіць чалавека доўга блукаць на адным месцы. Каб вярнуць таго, хто заблудзіўся, Л. задобрывалі: на скрыжаванні лясных сцежак клалі хлеб з соллю, сала. Вобраз Л. страціў рэлігійнае значэнне ў канцы 19 — пач. 20 ст. і сустракаецца ў фальклоры (пераважна ў былічках).

*М. Ф. Піліпенка.*

**ЛЯТО́К**, 1) адтуліна ў вуллі для вылету пчол. 2) Адтуліна ў шпакоўні, дупле.

**ЛЯХАВІЦКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Цэнтральнай Беларусі. Бытаваў у 19 — пач. 20 ст. на тэр. Ляхавіцкага, Нясвіжскага і Клецкага р-наў. Аснову летняга жаночага касцюма складалі кашуля, спадніца, фартух, пояс, гарсэт. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, аздаблялі вузкімі паскамі чырвонага натыкання, якія кампанаваліся ў гарызантальныя шлякі, размешчаныя на грудзях, рукавах, плечавых устаўках, адкладным каўнярь. У строгім арнаменце амаль адсутнічаў рамбічны і раслінны ўзор. Шырокая, кроеная з 4—5 полак шарсцянкі спадніца (выбіванка, андарак, плацянковая спадніца) вызначалася суладдзем сакавітых разнаколерных (у вясёлкавай гаме) гарызантальных шлякоў, якія чаргаваліся з цёмна-сінім, цёмна-зялёным, бурачковым ці чорным колерам фону. Прасавалася ў дробныя складкі. Фартух шылі з 2 полак кужалю, аздаблялі, як і кашулю. Аднапалкавы фартух шылі са стракатых тканін. Вузкі пояс, тканы геаметрычнымі ўзорамі ў чырвона-зялёным каларыце, завязваўся спераду. Гарсэты цёмна-сінія, зялёныя, чорныя ў выглядзе безрукаўкі з баскай-клінкамі ці накшталт кароткага ліфа з адразной баскай на спіне. Галаўныя ўборы — падвічка, намітка ці хустка, аздобленыя букетамі кветак, зелянiны, гірляндачкай (гафрыраванай разнаколернай паперай, сабранай у веер). Нагрудныя і шыйныя ўпрыгожанні — пацеркі, тасёмкі, стужкі, абразкі. Мужчынскае адзенне складалі кашуля навыпуск, пояс і шарачковыя нагавіцы. Галаўнымі ўборамі былі саламяныя капелюшы, упрыгожаныя чырвонымі стужкамі, кветкамі, каласкамі жыта. Верхняе мужчынскае і жаночае адзен-



**Ляхавіцкі строй.** Касцюм маладой і дружкі. Вёска Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна. 1920-я г.

не — сярмяга са складкамі на спіне, кароткая копта з нашыўкамі чорнага аксаміту, блакітны каптан з чырвонымі выкладамі на грудзях і рукавах.

**ЛЯ́ХАВІЦКІЯ РУЧНІКІ**, тып традыцыйных тканых ручнікоў, якія вырабляюцца народнымі майстрамі пераважна ў Ляхавіцкім, а таксама Баранавіцкім, Ганцавіцкім раёнах. Вядомы з сярэдзіны 19 ст. Даўжыня ручнікоў 310—400 см, шыр. 26—30 см. Ткуць з адбеленага кужалю або белай баваўны («белька»). Кампазіцыя аздобы ствараецца чаргаваннем папярочных суцэльных і пункцірных палосак рознай шырыні, якія групуюцца ў шлякі — па канцах шырокія, шчыльныя, да сярэдзіны вузкія, рэдка размешчаныя. Узор ствараецца чырвонымі ніткамі ўтку з невялікімі ўкрапінамі чорных, цёмна-сініх, жоўтых. Тэхніка ткання — шматнітовая, часам закладная. Аздабляюць на канцах мохрыкамі, утваранымі з нітак асновы, кутасамі, карункамі. Уласцівая Л. р. каларыстычная гама, кампазіцыі з палос, аздабленне махрамі і кутасамі назіраюцца ў афармленні нар. адзення, розных відаў мастацкіх тканін гэтай этнагр. зоны. Лепшыя ўзоры Л. р. зберагаюцца ў Дзярж. маст. музеі БССР, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР, Баранавіцкім краязнаўчым музеі і інш.





**Ляхавіцкі строй.** Жанчыны ў святочным убранні. Вёска Вялікае Падлессе. 1920-я г. **Ляхавіцкі строй.** Вясельны ўбор маладой. 1905. Усе Ляхавіцкі раён.



**Ляхавіцкі ручнік.** Вёска Падбарочча, Ляхавіцкі раён. 1913.

**ЛЯ́ЦКІ** Яўген Аляксандравіч [3(15).3.1868, Мінск — 7.7.1942], гісторык рускай літаратуры, даследчык беларускага фальклору і этнаграфіі. Скончыў Маскоўскі ун-т (1893). Удзельнічаў у фальклорных экспедыцыях на поўнач Расіі, Паволжа, у Літву, на Беларусь (Палессе) і інш. Пасля Кастр. рэвалюцыі жыў у Празе, загадваў кафедрай гісторыі рус. мовы і л-ры Карлава ун-та. Друкаваўся з 1890. Збіраў і даследаваў бел. фальклор, нар. міфалогію (арт. «Уяўленні беларуса пра нячыстую сілу», 1890; «Хвароба і смерць ва ўяўленнях беларусаў», 1892; «Матэрыялы для вывучэння творчасці і побыту беларусаў. І. Прыказкі, прымаўкі, загадкі», 1898, і інш.). Аўтар даследаванняў пра стараж. пісьменнасць і «Слова аб палку Ігаравым», рус. і сав. пісьменнікаў, рэцэнзій на працы М. В. Доўнар-Запольскага, М. Я. Нікіфароўскага і інш. У 1927—28 у чэшскім час. «Slavia» апублікаваў цыкл артыкулаў «Нататкі па беларусазнаўству». Вялікая рукапісная калекцыя Л. бел. нар. вуснапаэтычнай творчасці зберагаецца ў Інстытуце рус. літаратуры (Пушкінскі дом) АН СССР.

*Тв.:* Несколько замечаний к вопросу о пословицах и поговорках. [Ч.] 1—5. Спб., 1897; Материалы по белорусской словесности и языку//Известия Отделения русского языка и словесности Имп. Академии наук. 1904. Т. 9, кн. 4. *І. К. Цішчанка.*



**«МАГЕ́РА»**, традыцыйны танец. Танцуюць яго так: кладуць крыж-накрыж два таўкачы, дзве палкі або калочкі, нават лучынкі, у залежнасці ад абставін, што знаходзіцца бліжэй пад рукой — і імкнуцца выраблядь нагамі розныя па ў вуглах крыжа, не зачапляючы, не кранаючы з месца палак. Яго ахвотна танцуюць і дзеці. Выкананне «М.» суправаджаецца прыпеўкай:

Чы, чы, магера, па прыпячку сядзела,
кудзеліцу вярцела.
Кудзеліца ўпала — пойдзем разам
да пана.
А ў Кіеве казалі, што магеру скакалі.
Хто магеру выскачыць, той сто рублёў
выхваціць.
Я й магеру выскачу, и й сто рублёў
выхвачу...

Зафіксаваны П. В. Шэйнам у паўн.-зах. частцы Беларусі. *А. Л. Варламаў.*



Селянін у **магерцы.** Вёска Заходы Шклоўскага раёна. Пачатак 20 ст.

**МАГЕ́РКА**, старадаўні мужчынскі галаўны ўбор. Вядомы ў 16—19 ст. па ўсёй Беларусі. Паводле спосабу вырабу бываюць лямцавыя (валеныя з воўны)





**Магілёўская кераміка.** Свяцільні. 18—19 ст.

**Магілёўская кераміка.** Збан. 17—18 ст.

і пытыя з чатырох кавалкаў тоўстага валенага сукна. Лямцавыя М. мелі выгляд каўпака або ўсечанага конуса, завернуты да палавіны вышыні аколыш шчыльна прылягаў да верху (паўдвайная М.) або даходзіў да самага донца (двайная М.). Рабілі М. вышынёй 15—20 см белага, шэрага, карычневага і чорнага колераў. Насілі круглы год. Высокага майстэрства ў вырабе М. у 19 ст. дасягнулі шапавалы з мяст. Дрыбін (Горацкі р-н). *М. Ф. Раманюк.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, традыцыйныя вырабы мясцовых рамеснікаў канца 15— пач. 20 ст.: посуд, цацкі і інш. прадметы хатняга ўжытку. Гаршкі з прамой шыйкай і касым ці закругленым краем венчыка, макотры ў канцы 15—16 ст. аздаблялі хвалістым арнаментам ці наколкамі, насечкамі. Традыцыі арнаментацыі непаліваных гаршкоў захоўваліся да 18 ст. З 16 ст. пашырылася вытворчасць паліванай і чорназадымленай керамікі. У 17—18 ст. выраблялі гаршкі, кубкі, куфлі, міскі, паўміскі, збаны, макотры, глякі, талеркі. Паліваны посуд (міскі і талеркі) упрыгожвалі арнаментам у выглядзе кругоў і кветак, збаны з вял. ручкай — адбіткам пальцаў на яе краях і арнаментам у выглядзе налепных кветак на плечуках; куфлі аздаблялі выявамі герба горада і пакрывалі зялёнай палівай. У 2-й пал. 17—18 ст. выраблялі посуд (талеркі, збаны), аздоблены ангобнаю размалёўкаю (геаметрычны і раслінны арнамент). Выраблялі таксама кафлю, дзіцячы посуд (кубачкі, талерачкі), падсвечнікі, рукамыйнікі, цэглу-пальчатку, непаліваную (плоскую і паўцыркульную) і паліваную зялёную дахоўку, магчыма, чорназадымленыя і паліваныя курыльныя люлькі. Некаторыя віды посуду вывозіліся на продаж у Расію. Вырабы М. к. зберагаюцца ў Магілёўскім абл. краязнаўчым музеі. *А. А. Трусаў, Н. І. Здановіч.*

**МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны на базе экспанатаў *Магілёўскага царкоўна-археалагічнага музея* і *Магілёўскага музея.* Адкрыты 31.1.1919 як губернскі музей. Пазней меў філіялы — Музей гісторыі і атэізму (1935—41) і мемарыяльны музей Р. К. Арджанікідзе (1937—41). Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў музеі зберагаліся экспанаты вял. культурна-гіст. каштоўнасці: крыж Ефрасінні Полацкай 1161, калекцыі бел. рукапісных кніг і грамат, зброі 10—14 ст., манет, абразоў 13—18 ст., фарфоравых вырабаў 14—18 ст., карціны І. Айвазоўскага, І. Рэпіна, В. Сярова і інш. Разрабаваны ням.-фаш. захопнікамі. Адноўлены ў 1950. Мае 29 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 2,1 тыс. м$^2$), каля 100 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988). Аддзелы: гісторыі дасав. перыяду, гісторыі сав. перыяду, этнаграфічны, мастацкі, прыроды краю. Сярод экспанатаў матэрыялы з археал. раскопак на Магілёўшчыне (калекцыі манет і стараж. скарбаў, зброі 14—19 ст., крыжоў 11—17 ст., у т. л. каменных), дакументальныя матэрыялы пра ўздзел магіляўчан у Рэвалюцыі 1905—07, устанаўленне Сав. улады на Магілёўшчыне, сацыяліст. будаўніцтва, партызанскі і падпольны рух у Вял. Айч. вайну, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў краі. Зберагаюцца творы жывапісу 18 ст., работы сучасных бел. майстроў, у т. л. разьбяра па дрэве В. Валкавога, габелены Л. Сівакавай, вырабы з керамікі, узоры бел. нар. адзення, ткацтва, вышыўкі, этнагр. калекцыя 19— пач. 20 ст. Экспануюцца старадрукаваныя кнігі, творы бел. і рус. пісьменнікаў і інш. Філіялы — Музей гісторыі бітвы пад Лясной (Слаўгарадскі р-н), *Музей этнаграфіі* (Магілёў), Музей дзекабрыстаў (Магілёў). *М. М. Каваленчыкаў.*

**МАГІЛЁЎСКІ МУЗЕ́Й.** Існаваў з 15.11.1867 да 1919 пры Магілёўскім губ. статыстычным камітэце. У 1879 рэарганізаваны. Існавалі аддзелы: гіст., этнаграфічны., геагр. (геалагічны). Меў каля 1500 экспанатаў, сярод іх: кальчуга з Анялінскага кургана Быхаўскага пав., троннае крэсла з Магілёўскага дарожнага палаца 18 ст., сімвалічныя ключы Магілёва работы мясцовых майстроў (18 ст.), атлас 1823 з планамі гарадоў Магілёўшчыны, батлейка з Быхаўскага пав., мадэль сялянскага двара Рагачоўскага пав., ветранога млына, саніразвалы, драбіны, байдак, лайба, чаўны,



**Магілёўская кераміка.** Посуд. 17—18 ст.

прылады працы сялян, нар. адзенне, прадметы саматужнай і завадской вытворчасці, скарбы стараж. манет, стараж. зброя, памятныя медалі, фотаздымкі этнагр. тыпаў Магілёўшчыны, гербарыі раслін, узоры глеб і інш. Экспанаты перададзены ў Магілёўскі губернскі музей. *Л. Дз. Клок.*

**МАГІЛЁЎСКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Падняпроўі. Бытаваў у 18— пач. 20 ст. пераважна ў Магілёўскім, Быхаўскім, Шклоўскім, Слаўгарадскім і Рагачоўскім р-нах. Летні жаночы гарнітур складалі ў асн. 2 варыянты-комплексы: кашуля, спадніца, фартух; кашуля, спадніца, фартух, гарсэт. Кашулю шылі з прамымі плечавымі ўстаўкамі з адноснa вузкім рукавом, адкладным (радзей вузкім стаячым) каўняром. Арнамент натыкання і вышыўкі (чырвоны з украпінамі чорнага) кампанаваўся ў палосы на плечавых устаўках і рукавах (паралельна лініі ўточкі),

на каўняры. Пераважалі геаметрычныя (ромб, крыжык, зорачка) і раслінныя (васількі, бярозка) узоры. Суконная спадніца (андарак, саян) чырвона-малінавая з белай, зялёнай, сіняй, чорнай клеткай, палатняная (бляк) — гладка-белая ці клятчастая шэра-белая з арнаментальным шлякам на падоле. Падпяразвалі вузкім дэкар. поясам. Фартух-трыпольнік шылі з 3 полак белага палатна. Гарсэт (кабат) шылі з сіняга, чырвонага аксаміту, шарсцянкі з баскай у выглядзе клінкоў або прышывалі да спадніцы, аздаблялі нашыўкамі тасьмы. Галаўныя ўборы жанчын — чапец, намітка, дамотканая хустка, аздобленая вышыўкай і нашыўкамі мохрыкаў. Шыйныя і нагрудныя ўпрыгожанні — пацеркі, абразкі, крыжыкі. У мужчынскіх кашулях тунікападобнага крою багата вышывалі манішку. Нагавіцы шылі з белага палатна ці сукна. Насілі таксама суконныя ці палатняныя камізэлькі з стаячым каўняром, шыйныя дамотканыя хустачкі-шалікі, вышытыя чырвоным арнаментам на канцах. Галаўны ўбор — каўпаковая з лямцу магерка ці футраванка. Мужчынская і жаночая вопратка — белыя світы, аздобленыя вышыўкай, нашыўкай тасьмы і шнура.

*М. Ф. Раманюк.*

**МАГІЛЁЎСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Існаваў у 1897—1918. Заснаваны Е. Р. Раманавым. Размяшчаўся ў будынку б. бернардзінскага манастыра. Пл. экспазіцыі 140 м². Меў больш за 6 тыс. экспанатаў. Найб. каштоўныя — абразы 16—18 ст., намаляваныя на палатне і драўляных досках ці выразаныя з дрэва, волава, свінцу, бляхі, некаторыя з іх у абкладах работы магілёўскіх майстроў А. Вoўчака і П. Сліжыка. Сярод экспанатаў: царкоўнае адзенне 17—18 ст., аздобленае залатой вышыўкай і каштоўнымі камянямі, калекцыі крыжоў і царкоўнага начыння, упрыгожанага разьбой і інкрустацыяй (18 ст.), вышытыя плашчаніцы, часткі разных іканастасаў, царскія вароты і бакавыя алтарныя дзверы (некаторыя работы мясцовых разьбяроў), выданні бел. друкарняў 17—18 ст., архіўныя дакументы, матэрыялы археал. раскопак. У 1919 экспанаты перададзены Магілёўскаму губернскаму музею (гл. *Магілёўскі абласны краязнаўчы музей*).

*Е. І. Філіповіч.*

**МА́ГІЯ** (лац. magia ад грэч. mageia), абрады, таямнічыя дзеянні або слоўныя формы-заклінанні, што выкарыстоўваліся чалавекам з мэтай звышнатуральным спосабам уплываць на істоты, прадметы і з'явы акаляючага свету. Узнікла ў першабытным грамадстве і захавалася ў *рэлігійных вераваннях* да нашага часу. Шырока былі распаўсюджаны магічныя абрады пры першым выхадзе ў поле, уборцы ўраджаю, абрады выклікання дажджу і інш. З узнікненнем класавага грамадства і з'яўленнем складаных форм рэлігіі (*хрысціянства*, ісламу, будызму) М. ўвайшла ў іх як састаўная частка культавых дзеянняў (напр., мірапамазанне, саборaванне, хрэсныя хады да «святых» месцаў і інш.). У сярэднія вякі адрознівалі М. белую — чараўніцтва пры дапамозе нябесных сіл (маленні са зваротамі да бога, маткі боскай і інш.) і М. чорную — чараўніцтва пры дапамозе пякельных сіл.

Па сваёй мэтавай накіраванасці М. падзялялася на некалькі тыпаў: шкодную, ваенную, любоўную, лячэбную, прамысловую, сельскагаспадарчую, бытавую і інш. Шкодную М. выкарыстоўвалі супраць сваіх ворагаў. Перажыткі яе захаваліся ў выглядзе праклёнаў, магічных дзеянняў над следам чалавека, падкідвання пад вароты ці ганак зямлі з магілак, насланне «порчы» на чалавека шляхам «уроку», *заломаў* у жыце і інш. Ваенная М. выкарыстоўвалася пры выступленні супраць ворагаў: танцы, заклінанні зброі, нашэнне талісманаў ад варожых стрэлаў, коп'яў (пазней куляў). Прыёмы любоўнай М. выкарыстоўвалі з мэтай «прываражыць», «прысушыць» каханага ці «адсушыць», «адваражыць» нялюбага, адпомсціць разлучніцы і інш. Адзін са старажытных тыпаў М.— прамысловая: рознага роду дзеянні, мэта якіх — садзейнічаць паспяховаму паляванню, рыбнай лоўлі і інш. Неаддзельная ад яе М. земляробчая ці сельскагаспадарчая, якая спалучала ў сабе шэраг абрадаў і дзеянняў, накіраваных на атрыманне добрага ўраджаю, ўратаванне ад засухі, паводкі, прадухіленне паморку хатняй жывёлы і інш. Старажытная па паходжанню лячэбная М. (*знахарства*), у якой выкарыстоўвалі талісманы, акурванне хворага дымам, выціскание, выхукванне, выгрызанне хваробы і інш. Часам магічныя дзеянні праводзілі не над самім хворым, а над яго валасамі, пазногцямі, адзеннем і інш. У лячэбнай М. шырока выкарыстоўвалі шэпты і замовы. Лічылі, што многія хваробы былі вынікам дзеяння злых духаў, таму ў тэкстах замоў сустракаюцца просьбы ці пагрозы гэтым сілам. З мэтай магічнага ўздзеяння на звышнатуральныя сілы выкарыстоўвалі агонь, ваду, зямлю, некаторыя расліны, камяні і інш. Так, «пашаптанай» вадой паўсюдна лячылі т. зв. ўрокі: «Вадзіца-царыца, красна-дзевіца, абмывала ты крутыя беражкі, жоўтыя пяскі. Так абмый і раба божага (называецца імя). Шэры камень. Белы камень. І ўроцы вон, і вочы вон». Ад т. зв. прыстрэку шапталі такую замову: «Прыстрэк сабачы, алявячы, кацячы, выйдзі з машчэй, кашчэй, з румяное крыві, з 40 суставаў на горы дрымучыя, пяскі сыпучыя» і інш. Магічную сілу здольнасць засцерагаць ад няшчасця і злых духаў прыпісвалі многім прадметам, выявам, дзеянням (гл. *Апатрапей*). Часта М. была заняткам т. зв. чараўнікоў, ведзьмароў. Рэшткі магічных забабонаў засталіся ў быце часткі насельніцтва рэспублікі. Рост культурнага ўзроўню насельніцтва абумоўлівае іх знікненне. *Л. І. Мінько.*



**Магілёўскі строй.** Сялянкі ў традыцыйным летнім адзенні. Вёска Заходы Шклоўскага раёна. 1903.

**МАЁНТАК** (старабел, и м е н и е), від зямельнага ўладання ў феадальную і капіталістычную эпохі. У шырокім сэнсе М.— сукупнасць феадальнай зямельнай уласнасці і звязаных з ёю пра-

воў на феадальна-залежных сялян. У М. уваходзілі панская гаспадарка (домен) і сялянскія трыманні. Адрозніваліся сацыяльнай прыналежнасцю і паходжаннем правоў іх уладальнікаў, эканам. структурай, памерамі. Падзяляліся на дзяржаўныя, прыватнаўласніцкія і царкоўныя. М. дзяржаўныя, уласнікам якіх быў вял. князь (гаспадар), з 1569 кароль, мелі розныя назвы: воласці, двары, эканоміі, староствы, каралеўшчызны і інш., але ў іх быў адзіны юрыдычны статус — велікакняжацкія (гаспадарскія) ці каралеўскія. Даходы ад іх выкарыстоўваў гаспадар як на дзяржаўныя, так і на асабістыя патрэбы. М., якія феадалы (шляхта) атрымлівалі ад вялікага князя ці магнатаў за ваенную і інш. службы або ў спадчыну ад родзічаў,— прыватнаўласніцкія. Вядомы «атчызныя», «дзедзічныя», «даніны», «выслугі» і інш. Феадалы мелі неабмежаваныя правы на сваю ўласнасць, якія былі замацаваны ў прывілеях, Статутах Вял. кн. Літоўскага 1529, 1566, 1588. Царкоўныя М.— уласнасць духоўных устаноў (епіскапстваў, манастыроў, цэркваў, касцёлаў). Аснова вытворчай дзейнасці М.— сялянская гаспадарка, аснова даходаў — прыбавачная праца феадальназалежнага насельніцтва. Эканам. структура М. вызначалася яго гаспадарчай накіраванасцю і характарызавалася як рознымі суадносінамі памераў панскай і сялянскай зямлі, так і перавагай той ці інш. рэнты. Да сярэдзіны 15 ст. асноўнай формай рэнты ў большасці феадальных М. быў натуральны аброк, у далейшым пашырыліся паншчына і аброкі грашыма (чынш). Пасля правядзення *валочнай памеры* (16 ст.) у дзяржаўных, а потым у прыватных і царкоўных М. ствараюцца *фальваркі.* Як феадальная гаспадарка, тэрмін фальварак быў сінонімам М. Гэта характэрна ў асноўным для невялікіх М. з адным фальваркам. У буйных М. мелася і па некалькі фальваркаў.

У Расіі да 18 ст. тэрміну М. адпавядалі вотчына і памесце. Пасля прынятага Пятром I Указа пра адзінаспадчыннасць (1714) памесці зліліся з вотчынамі ў адзіны від уласнасці, тэрмін М. (нерухомая маёмасць) стаў для іх агульным азначэннем. У гэтым сэнсе ён выкарыстоўваўся і на Беларусі да пач. 20 ст.

У вузкім сэнсе М.— цэнтр уладання, панскі двор, сядзіба з гаспадарчымі і жыллёвымі пабудовамі. Найбольш поўнае ўяўленне пра феадальныя сядзібы даюць *інвентары* (вопісы ўладанняў). Паводле іх, кожны М. меў сядзібу (двор), дзе жыў уладальнік ці маёнткавая адміністрацыя. У буйных М. з некалькімі гаспадаркамі двор быў амаль у кожнай сядзібе. Да сярэдзіны 16 ст. панскую гаспадарку апрацоўвала *чэлядзь* нявольная, пасля валочнай памеры — *цяглыя сяляне.* Акрамя ворнай зямлі кожны М. меў сенажаць, выганы, агароды. У некаторых М. былі сады, у асноўным вішнёвыя і яблыневыя, сажалкі, дваровы лес. Комплекс пабудоў і ўгоддзяў у М. быў розным па памерах і залежаў ад маёмаснага становішча ўладальніка. У найбольш буйных М. 16—17 ст. былі і жыллёвыя (палацы, хаты з сенцамі, святліцы), і гаспадарчыя (*стайні, хлявы, аборы, клеці, адрыны, пўныцы,* свірны і інш.) пабудовы. У сядзібны комплекс уваходзілі і жыллёвыя пабудовы для дваровых слуг і рамеснікаў, а таксама пякарні, *бровары,* півварні, *вяндлярні* і інш. Пры некаторых М. былі ставы, *млыны вадзяныя, рудні, кузні.* Выраблялася прадукцыя на ўнутраныя патрэбы і на продаж. Гадавалі буйную рагатую жывёлу, коней, свіней, хатніх птушак — курэй, гусей, качак, індыкоў. Вырошчвалі жыта, авёс, ячмень, пшаніцу, грэчку, гарох, з 18 ст. бульбу, з агародных культур — капусту, агуркі, цыбулю, часнок, рэпу, моркву, пашырыліся пасевы льну, каноплі. У некаторых М. у той час ствараліся мануфактуры па перапрацоўцы с.-г. сыравіны, на вытворчасці паташу (гл. *Буды*), жалеза, шкла, палатна, вырабаў з лесаматэрыялаў. Пабудовы ў М. сярэдніх і дробных феадалаў у асноўным былі драўлянымі. У многіх М. магнатаў будаваліся палацава-замкавыя ансамблі (палацы Сапегаў у Ружанах і Гальшанах, Радзівілаў у Любчы і Міры). У буйных М. паблізу панскай сядзібы ці на ёй размяшчалася царква ці касцёл, нярэдка недалёка знаходзілася і карчма. Пры будаўніцтве сядзіб значна больш выкарыстоўвалі камень і цэглу, дамы будавалі складанай шматкамернай планіроўкі, з'явіліся 2-павярховыя будынкі. Прыналежнасцю многіх буйных М. быў парк.

*В. Ф. Голубеў.*

**МАЖА́РА,** драбіны, грузавая чатырохколавая павозка з бартавымі драбінамі для коннай ці валовай запрэжкі. Лакальная назва мажы. Паводле пісьмовых крыніц, на Беларусі вядома з 16 ст. У сялянскіх гаспадарках бытавала дыяхронна і непаўсюдна: у некаторых раёнах Падняпроўя і цэнтр. Беларусі — толькі з пач. 20 ст. Паводле спосабу злучэння пярэдняй і задняй частак (ходаў) М. падзяляліся на разводныя і неразводныя. У разводных М. пярэдні і задні хады маглі разводзіцца на неабходную адлегласць — для транспарціроўкі лесу. У сялянскай гаспадарцы, асабліва на З Беларусі разводныя М. выкарыстоўвалі для перавозкі снапоў, сена, штучных і сыпкіх грузаў. Для сыпкіх грузаў бартавыя драбіны здымалі з ручак і на іх месца ставілі драўляныя шчыты або спецыяльны кош ці палукашак. М. неразводныя (рэды, рэдалі) мелі нерухомую (глухую) сувязь пярэдняга і задняга хадоў, якія злучаліся жэрдкай-трайнёй (звычайна раздвоенай на заднім канцы і з выгінам уперадзе) і брускамі-ляжэйкамі, што мацаваліся па краях падушак і служылі асновай краністага кузава. Апошні часцей меў высокія барты, што ўтваралі замацаваныя на ручках шырокія (да 1 м і болей) драбіны; яны былі больш зручнымі пры перавозцы снапоў, саломы, сена. Неразводныя М. былі больш пашыраны на У Беларусі. На Палессі бытавалі вузкія М. (каля 0,8 м), зручныя пры яздзе па лясных дарогах. Часам яны мелі вялікія і шырокія колы, лепш прыстасаваныя да бездарожжа. Бартавыя драбіны М. ў сялянскай гаспадарцы зімой выкарыстоўвалі ў аборах і хлявах як перакрыццё на гарышчах ці як яслі для сена. Як і *калёсы,* М. ў пач. 20 ст. зазнала эвалюцыю: палепшаны яе эксплуатацыйныя якасці, шэраг драўляных элементаў (восі, шворан, падгерац, атосы і інш.) заменены жалезнымі. У с.-г. вытворчасці М. выкарыстоўваецца і ў наш час.

*В. С. Цітоў.*



Мажара з палукашам. Мястэчка Любашаў Пінскага павета. Пачатак 20 ст.

**МАЖЭЙКА** Зінаіда Якаўлеўна (н. 6.12.1933, Орша), беларускі савецкі этнамузыказнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1971). Засл. дзеяч мастацтваў БССР (1987). Скончыла Бел. кансерваторыю (1961). Выкладала ў Мінскім муз. вучылішчы (1959—62). З 1962 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1973 ст. навук. супрацоўнік). Распрацоўвае тэарэтычныя праблемы сістэмнай тыпалогіі і мелагеаграфіі песенных жанраў, метадалогію арэальных даследаванняў, экалагічныя праблемы традыцыйнай культуры (цэнтр. тэма — фальклор і сучаснасць). Музыказнаўчы аспект у яе працах арганічна спалучаецца з мастацтвазнаўчым, гіст., этнагр., сацыялагічным. У галіне практычнай фалькларыстыкі — прапаганда аўтэнтычных песенных форм на навук. узроўні: арганізацыя музычна-этнагр. канцэртаў (у т. л. на 7-м Міжнар. музычным кангрэсе ў Маскве, 1971), выпуск грампласцінак (сярод іх «Музычны фальклор Беларускага Палесся», выд. ЮНЕСКА у серыі «Музычны атлас народаў свету», 1982), стварэнне сцэнарыяў навук.-папулярных музычна-этнагр. фільмаў («Палескія калядкі», 1972; «Галасы вякоў», 1979; «Памяць стагоддзяў», 1982; «Палескія вяселлі», 1986). Выступала з дакладамі на міжнар. навук. канферэнцыях у Балгарыі, Югаславіі, Маскве, Мінску, Таліне. З 1972 М.— чл. бюро Усесаюзнай фальклорнай камісіі Саюза кампазітараў СССР, з 1987 старшыня фальклорнай камісіі Саюза кампазітараў БССР.

*Тв.:* Песенная культура белорусского Полесья: Село Тонеж. Мн., 1971; Зімовыя песні: Калядкі і шчадроўкі [укладанне, сістэматызацыя, характарыстыка і рэдагаванне напеваў]. Мн., 1975; Вяселле: Абрад [муз. дадатак]. Мн., 1978; Песні беларускага Паазер'я. Мн., 1981; Традиционното народно-песенно творчество в съвременния музикален бит на белоруското село: (Въпроси от теорията и практиката) // Съвременност и фольклор. Проблеми. София, 1981; Вяселле: Песні [муз. дадатак]. Кн. 1—4. Мн., 1980—85; Песни Белорусского Полесья. Вып. 1—2. М., 1983—84; Роль игровых элементов в календарно-песенной системе славянских и балканских народов// Македонски фолклор. 1984.Број 34; Календарно-песенная культура Белоруссии: Опыт системно-типологического исследования. Мн., 1985.

*Т. Б. Варфаламеева.*

**МАЗУ́РКА** (польск. mazurek, mazur ад назвы жыхароў Мазавецкага рэгіёна), польскі народны танец. Музычны памер $^3/_4$ ці $^3/_8$. Тэмп вар'іруецца ад умеранага да хуткага. На Беларусі пашыраны з 19 ст., спачатку ў гарадзе, затым у вёсцы. Можа выконвацца неабмежаванай колькасцю пар. Асноўны малюнак — круг. Для М., што выконваецца на Беларусі, характэрны рытмічны мяккі бег (2 плаўныя крокі з правай і з левай нагі, затым правая нага мякка падводзіцца да левай у 1-ю пазіцыю, быццам бы піхаючы яе, левая падымаецца наперад у 4-ю нізкую пазіцыю). Танец пашыраны па ўсёй Беларусі, асабліва ў Гродзенскай і Віцебскай абл. *С. В. Гуткоўская.*

**МАЗЫРСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны 9.2.1949 у Мазыры. Адкрыты 7.11.1949. Мае 5 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 479 м²), больш як 15 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1989). Аддзелы: археалогіі, гісторыі дасав. і сав. перыядаў, прыроды. У экспазіцыі дакументы і матэрыялы пра рэвалюцыйны рух працоўных краю ў канцы 19— пачатку 20 ст., Кастрычніцкую рэвалюцыю, грамадзянскую і Вял. Айч. вайны, развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў пасляваенны час. Зберагаюцца жаночы бранзалет і фібула (бронзавы век), амфара 2-й пал. 12 ст., фрагменты шкляных бранзалетаў, праслiцы 12—13 ст., узоры кафляных пліток, глінянага посуду 16—18 ст. Экспануецца этнагр. калекцыя: прылады працы і побыту сялян 19—20 ст. (плугі, бароны, граблі, косы, вілы, ручнікі, посцілкі, абрусы), нацыянальнае адзенне, кераміка М. М. Пушкара, узоры прыкладнога мастацтва Мазырскай фабрыкі «Радзіма», вырабы з керамікі і дрэва мясцовых майстроў. *А. Р. Бобр.*

**МАЙДА́Н,** 1) пляцоўка ў лесе для *буды*. 2) Яма для гонкі смалы, дзёгцю, выпальвання вугалю. Вядома з глыбокай старажытнасці, бытавала да канца 19 ст. Мела лейкападобную форму, бакі яе абмазвалі глінай, высцілалі бярostай або сасновай дранкай, іншы раз абкладалі цэглай. Ніжняя частка ямы, адгароджаная драўлянай (жалезнай) рашоткай, называлася пад'ямнік. На дно яго ставілі выдзеўбанае з дрэва «блюда» (Мінская губ); у Магілёўскай губ. дно рабілі ў выглядзе ўвагнутага глінянага круга («таза»). Былі М. з прамым і бакавым сцёкам. У М. з прамым сцёкам смала (дзёгаць) збіралася на дне ямы або ва ўкапанай пад ім бочцы. Вычэрпвалі яе спец. чарпаком на доўгім дзержаку. Пры бакавым сцёку з пад'ямніка на паверхню зямлі выводзіўся драўляны жолаб («рура»), па якім смала сцякала ў бочку. На Міншчыне і Магілёўшчыне пераважалі М. з бакавым сцёкам, на Палессі — з прамым. Яму запаўнялі сыравінай — *асмолам* ці бяростай або дрывамі, абкладвалі мохам, саломай, дзёрнам, прысыпалі зямлёй. Запальвалі сыравіну зверху праз адтуліны, якія потым закрывалі. Без доступу паветра яна тлела на працягу некалькіх дзён, у выніку чаго са смаляных карчоў атрымлівалі смалу і вугаль, з дроў — вугаль, з бяросты — дзёгаць. Рэгуляваў гарэнне вопытны майстар-атаман. 3) Назва ў многіх мясцовасцях адкрытай прасторы поля, адкрытага месца для размяшчэння будынкаў. 4) У археалогіі — асобы від курганоў, стараж. магіл, звычайна раскапаных зверху. *Н. І. Буракоўская.*



Макатры.

**«МАК»,** карагод. Музычны памер $^2/_4$, $^4/_4$. Мае шмат мясцовых варыянтаў, харэаграфічнае дзеянне якіх пры ўстойлівым кругавым малюнку залежыць ад песеннага тэксту. Агульным з'яўляецца тое, што ўсе варыянты паводле строю маюць форму дыялога: спачатку ставіцца пытанне, а потым на яго адказваюць. У адным з варыянтаў удзельнікі становяцца ў круг і ўнізе бяруцца за рукі. Простымі крокамі ходзяць па крузе супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі і спяваюць, адначасова абыгрываючы словы песеннага тэксту, у якім гаворыцца пра тое, як сеюць мак, як ён расце, як яго полюць і г. д. Завяршаецца карагод тым, што мак ядуць. Пашыраны на Усх. Палессі.

У другім варыянце — карагодзе-



**Маларыцкі строй.** Жанчына ў святочным адзенні. Вёска Гарохавішча Маларыцкага раёна.

гульні — удзельнікі ўтвараюць круг, у сярэдзіне якога знаходзяцца выбраныя хлопец або дзяўчына («мак»). Спачатку ўсе ідуць па крузе і спяваюць. Потым задаюць пытанне таму, хто знаходзіцца ў крузе, а той адказвае. Як толькі ўдзельнікі зададуць апошняе пытанне: ці мак паспеў або цара мак трусіць, усе збягаюцца ў сярэдзіну круга і пачынаюць тузаць «мак».

**МАКАЦЁР,** ганчарны выраб; глыбокая гліняная пасудзіна з слабапрафіляваным тулавам і шырокім вусцем, часам з 1—2 вушкамі, якая служыла пераважна для расціраня маку і інш. прадуктаў. Пасудзіны, падобныя формаю на М., вядомы па археалаг. раскопках з жалезнага веку. Паводле цэхавых статутаў 17 ст. (Мінск, Полацк) М. быў адным з прадметаў, які павінны былі вырабіць чаляднікі ў час экзамену на званне майстра. У залежнасці ад прымянення М. былі універсальныя і спецыялізаваныя. Універсальныя М. ўжывалі для расцірання прадуктаў, а таксама для гатавання ежы ў печы, заквашвання цеста і інш. Іх выраблялі з фармовачнай масы павышанай вогнетрываласці (гліны з дамешкам жарствы ці пяску) гартаваныя, чорназадымленыя, радзей проста абпаленыя з шурпатай унутранай паверхняй (памерамі звычайна 1—4 л). Бытавалі паўсюдна. Сярод спецыялізаваных М. вылучаліся М. «на мак», «на бліны», «на бабку». М. «на мак» (для расцірання маку, канаплянага і льнянога семя) бытавалі пераважна ў зах. і цэнтр. раёнах. Выраблялі непаліванымі з высакаякаснай фармовачнай масы без дамешкаў. На унутраную паверхню для лепшага расцірання прадуктаў вострай палачкай або драчкай (накшталт грэбеня) наносілі палоскі. М. «на бліны», для заквашвання цеста і інш. папырання амаль паўсюдна, выраблялі паліванымі звычайна з вушкамі па баках (памеры 3—20 л). М. «на бабку» (для смажання, размінання вараных гароднін) бытавалі на У і ПдЗ. Мелі чорназадымленую або паліваную паверхню, памеры 2—2,5 л. Лакальныя асаблівасці М. выяўляюцца таксама ў мясцовых назвах: М.— на Падняпроўі і сумежных з ім паўд.-ўсх. раёнах Падзвіння, у Цэнтр. Беларусі, макотра — на Палессі, цёрла, цёрніца — на Падзвінні, Панямонні, Цэнтр. Беларусі, вярцега, мяліца — на ПдЗ Беларусі. У сярэдзіне 20 ст. М. выйшлі з масавага ўжытку. *С. А. Мілючэнкаў.*



**Маларыцкі строй.** Касцюм свацці. Вёска Павіцце Кобрынскага раёна.

**МАЛАДА́Я,** назва асобы жаночага полу, якая выходзіць замуж, з пачатку вясельнага абраду або *заручын* да заканчэння вяселля. Называюць яшчэ нявеста, нявехна, маладуха, малодка, княгіня, малада княгіня, маладзёха. Асноўныя атрыбуты М., калі яна выходзіць замуж першы раз і не мае дзяцей,— падвянечны вянок з руты, іншай зеляніны і кветак (натуральных або штучных) на галаве з мноствам разнаколерных стужак, якія звісаюць на распушчаных валасах на плечы, або *вэлюм*. Да рукі М. прывязаны доўгі вышыты ручнік (радзей — хустка), за які яе вядуць. *Л. А. Малаш.*

**МАЛАДЫ́,** назва мужчыны, які жэніцца, з пачатку вясельнага абраду або *заручын* да заканчэння вяселля. Называюць яшчэ жаніх, князь, малады князь, маладзец, маладзень, суджаны. Асноўныя атрыбуты М.— кветка справа на грудзях або шапцы і заткнутая пад пояс або павязаная на шыі хустка, падараваная маладой, вышыты каўнер і манішка кашулі, прывязаны да рукі доўгі вышыты ручнік (радзей — хустка). *Л. А. Малаш.*

**МАЛАРЫ́ЦКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Заходнім Палессі. Бытаваў у 19 — сярэдзіне 20 ст. пераважна ў Маларыцкім і на Пд Кобрынскага р-наў. Адметны архаічнасцю, класічнай завершанасцю форм адзення, арыгінальнымі галаўнымі ўборамі замужніх жанчын, выкарыстаннем багата аздобленых дэкаратыўных тканін. Летні жаночы гарнітур складалі кашуля, спадніца, фартух. Кашулю шылі з прамымі плечавымі ўстаўкамі і адкладным каўняром. Аздаблялі чырвона-карычневым геам. арнаментам, скампанаваным у папярочныя палосы ў верхняй частцы рукава, на плячах, манішцы і па краі каўняра. Гарманічным спалучэннем натуральнага колеру бела-шэрай і карычнева-чырвонай воўны, белага лёну і пянькі вылучаюцца пругкія накшталт лямцу святочныя спадніцы — буркі, характэрныя толькі для М. с. Фартух (1- і 2-полкавы) часта меў дэкаратыўныя вышытыя завязкі. Падпяразвалі спадніцу тканым на кроснах чырвоным поясам. Асаблівую выразнасць касцюму надавала намітка, якую, у адрозненне ад намітак іншых строяў, багата аздаблялі вышыўкай: разеткамі-зоркамі на адным рагу і ўзорыстым шлякам на двух краях. У касцюме свацці своеасаблівай маляўнічасцю вызначаўся галаўны ўбор (каробачка-лямец, аздобленая разнаколернымі паскамі сацілу, шоўку, тасёмкамі, пацеркамі і двума пукамі-рожкамі пярэстафарбаванага пер'я). Шыйныя і нагрудныя ўпрыгожанні — пацеркі, крыжыкі, лычманы (3, 5, 7 круглых медальёнаў-абразкоў, прымацаваных да тасёмкі). У мужчынскі гарнітур уваходзілі кашуля навыпуск, пояс і нагавіцы; галаўны ўбор — саламяны капялюш. Верхнім адзеннем былі світы-латушкі з белага, шэрага або цёмна-карычневага валенага сукна, кажухі. *М. Ф. Раманюк.*

**МАЛАТА́РНЯ,** машына для малацьбы збожжа. Першыя М. з конным прывадам

паявіліся на Беларусі ў 1820-х г. у памешчыцкіх гаспадарках. Жалезныя іх часткі куплялі, а драўляныя рабілі мясцовыя ці вандроўныя майстры. Конны прывад устанаўлівалі ў гумне на шырокім таку ці перад гумном на «манежы». Малацільны агрэгат прыводзіўся ў рух з дапамогай шырокага і доўгага паса. Сустракаліся і М. таптальныя, ці «таптакі»,— з драўляным нахілена пастаўленым суцэльным колам, што прыводзілася ў рух нагамі валоў ці коней, якія тапталіся на адным месцы, а кола круцілася. Пазней паявіліся ручныя М., якія прыводзіліся ў рух з дапамогай двух ручак. Ручная М. займала менш месца, але працаваць на ёй было значна цяжэй. Ручкі пазменна круцілі 4 чалавекі. За дзень на ёй можна было змалаціць да 10 коп жыта, а на М. з конным прывадам —20—25 коп.

*Л. І. Мінько.*

**МАЛАТО́К,** ручны інструмент у выглядзе металічнага бруска або цыліндра (часцей звужаны з аднаго канца), насаджанага на драўляную ручку пад прамым вуглом, прызначаны для забівання цвікоў, кляпання касы і г. д. Вострым канцом М. кляпалі касу на тупой *бабцы*, а тупым — на вострай бабцы.

**«МАЛАТО́ЧКІ»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. У час танца выканаўцы моцна ўдараюць нагамі аб падлогу, акцэнтуючы адну з долей такта. Гэта стварае ўражанне калектыўнай працы, выканання своеасаблівага працоўнага працэсу. Танец складаецца з некалькіх фігур: адначасовы рух усіх танцораў па крузе, хуткае кручэнне ў парах; наступленне і адступленне дзвюх ліній выканаўцаў адзін да другога («сценка на сценку»); злучэнне ўсіх танцораў у адзін ланцужок і закручванне яго ў своеасаблівы «завіток». У канцы танца выканаўцы разбягаюцца ў розныя бакі. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у в. Хутарэц-Растовень Пінскага раёна.

*А. Л. Варламаў.*

**«МАЛАЦІ́ЛАЧКА»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Адносіцца да групы вобразна-ілюстрацыйных танцаў. У ім знайшлі адлюстраванне некаторыя моманты працэсу малацьбы збожжа. Выконваючы розныя рытмічныя крокі і прытупы, танцоры імітуюць вымалочванне зерня з каласоў. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Магілёўскай вобл. Сцэнічна апрацаваны балетмайстрам І. Серыкавым.

*А. Л. Варламаў.*

**МА́ЛАШ** Леаніла Апанасаўна (н. 1.6. 1927, в. Несцераўка Докшыцкага р-на), беларускі савецкі фалькларыст. Канд. філал. навук (1967). Скончыла БДУ (1952). З 1952 працавала ў Ін-це літаратуры АН БССР, у 1955—60 — у БДУ, з 1964 — заг. аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтр. навук. бібліятэкі АН БССР, з 1968 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1974 старшы навуковы супрацоўнік). Даследуе бел. і слав. фальклор, гісторыю бел. фалькларыстыкі ва ўзаемасувязях з фалькларыстыкай інш. слав. народаў, бел. вяселле на агульнаслав. фоне. Аўтар артыкулаў «Даленга-Хадакоўскі (Адам Чарноцкі) і яго спадчына» (1967), «У пошуках фальклорных зборнікаў Даленгі-Хадакоўскага» (1970), «Пачынальнік беларускай фалькларыстыкі. Да 190-годдзя з дня нараджэння Яна Чачота» (1986); укладальнік кніг «Вяселле. Песні» (кн. 1—6, 1980—88), аўтар прадмовы да іх, каментарыяў. За ўдзел у зводзе «Беларуская народная творчасць» Дзярж. прэмія БССР 1986.



Ручная **малатарня.**



**«Малацілачка».** Выконваюць жыхаркі вёскі Лінаў Пераўлянскага раёна.

*Тв.:* Беларуская этнаграфія і фальклор у працах славянскіх вучоных эпохі рамантызму. Мн., 1973 (разам з В. К. Бандарчыкам).

*В. С. Семянкова.*

**МАЛЧА́НАВА** Лідзія Аляксандраўна (н. 15.7.1921, в. Бузанава Астроўскага р-на Кастрамской вобл.), беларускі савецкі этнограф. Доктар гіст. навук (1969). Скончыла Ленінградскі ун-т (1944). З 1948 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР, з 1957 — Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе матэрыяльную культуру беларусаў са старажытных часоў і да нашых дзён (нар. жыллё, земляробчую тэхніку, адзенне). Аўтар артыкулаў, брашур, манаграфій «Беларуская народная архітэктурная разьба» (1958), «Матэрыяльная культура беларусаў» (1968), «Матэрыяльная культура беларускага калгаснага сяла» (1969), «Народная метралогія (да гісторыі народных мер даўжыні)» (1973), «Нарысы матэрыяльнай культуры беларусаў XVI—XVIII стст.» (1981), у сааўтарстве «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў» (1974), «Беларускае народнае адзенне» (1975), «Змены ў побыце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі» (1976).

**МАЛЯ́ВАНЫЯ ДЫВАНЫ́,** маляваныя на тканіне (паперы, цыраце) вырабы, прызначаныя для ўпрыгожвання інтэр'ера народнага жылля; від народнай *размалёўкі.* Вядомыя з канца 19 ст., найбольшае распаўсюджанне атрымалі ў 1930—50-я г., калі інтэнсіўная адбудова вёскі патрабавала адпаведнага нар. густам аздаблення інтэр'ера. Па матывах дэкору і характары кампазіцыі М. д. падобныя на тканыя і вышываныя насценныя *дываны,* але менш працаёмкія і выступалі як танны іх заменнік. На сшытае з двух кавалкаў палотнішча даматканага льнянога палатна памерамі прыкладна 1,5×2 м, афарбаванае ў чорны колер, наносілі асноўныя дэталі малюнка (часам ужывалі выразаныя з паперы трафарэты), падмалёўку дробных дэталей і нанясенне светлаценяў рабілі ад рукі. У некаторых рэгіёнах выпрацаваліся мясцовыя варыянты кампазіцыі і дэкору. Адметнымі мастацкімі асаблівасцямі вызначаюцца М. д. поўначы Беларусі (Мядзельскі, Вілейскі р-ны Мінскай, Пастаўскі, Шаркоўшчынскі, Глыбоцкі, Міёрскі, Докшыцкі р-ны Віцебскай вобл.). Кампазіцыя іх звычайна ўяўляе размешчаны ў цэнтры букет кветак у вазе, кошыку ці веравіты стужкай, акаймаваны па краях гірляндай з кветак і лісця або скіраванымі да цэнтра букетамі, рассыпанымі па ўсім полі. Часта ў кампазіцыю ўключаліся выявы птушак — ластавак, галубоў, паваў, зязюль, а таксама ініцыялы аўтараў ці заказчыкаў. Для паўдыванoў (з аднаго палотнішча) і макатак (з палавіны палотнішча) характэрны кампазіцыі з пары выкананых у наіўна-рэалістычнай манеры ільвоў, аленяў, галубоў. У Докшыцкім р-не, дзе ўжывалі пераважна клеевыя фарбы, М. д. вызначаюцца надзвычайнай дэкаратыўнасцю і ўмоўнасцю, гучнымі лакальнымі колерамі без паўтонаў і пераходаў. М. д. суседніх раёнаў, выкананыя алейнымі фарбамі, адлюстроўваюць імкненне да рэалізму: больш дэтальна распісаны пялёсткі кветак, лісце, абрысы жывёл і птушак. Спарадычна па ўсёй Беларусі сустракаліся М. д. сюжэтна-тэматычнага характару, якія ў наіўна-рэалістычным стылі адлюстроўвалі сцэнкі катання на лодках, сустрэчы ці развітанні закаханых, архітэктурныя пейзажы і інш. часта ў акаймоўцы арна-

ментальна-раслінных узораў (творы Я. Драздовіча). Унікальная з'ява ў нар. мастацтве Беларусі — сюжэтна-тэматычныя дываны А. Кіш са Случчыны, росквіт творчасці якой прыпадае на 1930-я г. Чыстымі, гучнымі фарбамі белага, зялёнага, блакітнага, малінавага колераў з падмалёўкай чорнымі лініямі па контурах адлюстраваны фігуры людзей, жывёл, птушак на фоне традыцыйнага ці экзатычнага пейзажу, па баках — акаймоўка з сакавітых кветкавых гірляндаў. Па матывах М. д. сучасныя мастакі ствараюць узоры дэкаратыўных пано. *Я. М. Сахута.*

**МАНАГА́МІЯ** (грэч. mónos адзін, адзіны + gámos шлюб), аднашлюбнасць, гістарычная форма сям'і і шлюбу, калі адзін мужчына ўступае ў шлюб з адной жанчынай (у адрозненне ад мнагажонства і мнагамужжа). Узнікла з парнага шлюбу ў перыяд распаду першабытнаабшчыннага ладу, стала пануючай формай шлюбу.

**МАНДАЛІ́НА**, струнны шчыпковы музычны інструмент лютневай сям'і. На Беларусі пашырана неапалітанская М., якая мае моцна пукаты склеены з асобных сегментаў корпус авальнай формы, плоскую дэку з круглай рэзанатарнай адтулінай, кароткую шыйку з металічнымі ладамі і галоўку з калкамі для мацавання 4 парных струн. Пры ігры гук здабываецца з дапамогай плектра. На Беларусі М. паявілася, верагодна, у сярэдзіне 19 ст., пра што сведчыць, напр., яе выява ў размалёўках Троіцкага касцёла ў г. п. Шарашова Пружанскага раёна. Спачатку М. ўвайшла ў музычны побыт бел. гарадоў і мястэчак, а ў канцы 19 — пач. 20 ст. і вёсак, дзе набыла асаблівую папулярнасць у 1920—30-я г. У нар. практыцы выкарыстоўваюцца інструменты пераважна фабрычнага вырабу (зрэдку сустракаюцца самаробныя). Іграюць на іх сола і ў ансамблях з гітарай, з балалайкай; са скрыпкай, балалайкай і гітарай (т. зв. неапалітанскі аркестр). Рэпертуар нар. мандаліністаў складаецца з танцаў (гарадскіх бытавых, бальных), папулярных песень. Трапляецца М. на значнай частцы Беларусі. *І. Дз. Назіна.*

**МАНУФАКТУ́РА** (ад лац. manus рука + factura выраб), форма арганізацыі вытворчасці на этапе зараджэння капіталістычнай прамысловасці. Заснавана на кааперацыі і тэхнічным падзеле працы; усе аперацыі выконваліся ўручную. Узнікненне М. падрыхтавана развіццём ва ўмовах сталага і позняга феадалізму дробнатаварнай рамеснай вытворчасці і гандлю, цэнтрамі якіх станавіліся гарады, а таксама ўцягненнем у таварна-грашовыя адносіны феадальнага памесця. На Беларусі ўтварэнню мануфактурных прадпрыемстваў папярэднічала пасрэдніцкая дзейнасць купцоў, якія скуплялі вырабы гарадскіх рамеснікаў. Прыкметнай з'явай яна стала на рубяжы 16—17 ст. у буйных рамесных цэнтрах — Магілёве, Мінску, Пінску, Полацку. У 1-й пал. 17 ст. сярод гарадскіх рамеснікаў паявіліся наёмныя работнікі. Прадпрыемствамі мануфактурнага тыпу былі плітніцы (выраблялі кафлю), цагельні ў Гродне, Магілёве, Полацку, Ражанах (Ружанах), друкарні ў Брэсце, Магілёве, Нясвіжы, Ашмянах, папяровы млын у Смаргоні, суднаверфі ў Віцебску і мяст. Дзераўная (Слонімскі р-н; будавалі рачныя судны — стругі, шкуты, віціны). Пра кааперацыю працы рамеснікаў сведчыў, напр., факт найму ўладальнікам цагельні ў Ражанах цагельнікаў, мясільшчыка гліны, дрываseka, гасільніка вапны. Пра гэта ж сведчыць наём уладальнікам суднаверфі ў мяст. Дзераўная вольнанаёмных пільшчыкаў, цесляроў, сталяроў, смалакураў, каналёў, канатнікаў. Рудні ў сярэдзіне 16 ст. былі прадпрыемствамі, на якіх кааперавалася праца курачоў (выпальвалі вугаль), дымароў (плавілі жалеза), кавалёў, горнікаў, плахароў (прамывалі руду). Гарадскія М. ўяўлялі сабой невялікія прадпрыемствы з 1—2 дзесяткамі работнікаў. Развіццю гэтых прадпрыемстваў перашкаджала пануючая ў бел. феадальных гарадах цахавая сістэма арганізацыі рамяства (гл. *Цэхі рамеснікаў*).

Далейшае развіццё мануфактурнай вытворчасці ў 18 ст. вызначалася ўзрослай роляй феадальнага памесця, асабліва магнацкіх вотчын, у гандлі і інш. сферах таварна-грашовых адносін. Вотчынныя М. выкарыстоўвалі працу прыгонных сялян. У 1-й пал. 18 ст. кн. Ганна Радзівіл заснавала шкляныя М. ва Урэччы (Любанскі р-н) і Налібаках (Стаўбцоўскі р-н), на якіх выраблялі разнастайны сталовы посуд, падсвечнікі, кандэлябры і інш. Многія з гэтых вырабаў — выдатныя творы мастацтва. У Слуцку працавала М. шаўковых паясоў (1740-я г. — 1844). З імем А. Тызенгаўза (1733—85) звязана развіццё мануфактурнай вытворчасці ў



Маляваны дыван. Шаркоўшчынскі раён.






Маляваны дыван. Вёска Курдзекі Докшыцкага раёна.

Маляваны дыван. Слуцкі раён.

Брэсцкай і Гродзенскай эканоміях. Заснаваныя ім 21 М. выраблялі сукно, палатно, шоўк, стрэльбы, карэты, панчохі і інш., выплаўлялі чыгун, сталь. Дзве з яго М. налічвалі па 150 прыгонных работнікаў, адна — 180, астатнія — ад 20 да 50 чал. Але прадпрыемствы гэтыя былі недаўгавечнымі, бо цалкам залежалі ад прывазной сыравіны і не мелі шырокага рынку збыту.

Уключэнне Беларусі ў склад Расіі стварыла спрыяльныя ўмовы для развіцця мануфактурнай вытворчасці. Буйныя землеўладальнікі Пацёмкін, Румянцаў, Галынскі, Чарнышэвіч, Зорыч стварылі ў сваіх вотчынах М., якія пастаўлялі на агульнарасійскі рынак вырабленыя з мясцовай сыравіны вялікія партыі парусіны, палатна, канатаў, сукна, шкла, скуры, жалеза і інш. тавараў. У Крычаве граф Пацёмкін заснаваў у канцы 18 ст. палатняна-парусінавую, канатную М. і суднаверф — буйныя для таго часу прадпрыемствы. Яны і яшчэ 10 М. розных уладальнікаў збывалі свае вырабы адміралцейству. Да канца 18 ст. на Беларусі налічвалася 53 М., на якіх працавала 2400 прыгонных работнікаў. З іх 30 знаходзіліся ў Магілёўскай, 16 — у Мінскай, па 1—2 у Гродзенскай, Віцебскай і бел. паветах Віленскай губ. Канцэнтрацыя М. на У адлюстравала вядучую ролю расійскага рынку ў прамысловым развіцці Беларусі. Працавалі на іх майстры, якія здаўна валодалі навыкамі вырабу прадукцыі з мясцовай сыравіны. На працягу 1810-х г. прыкметна павялічвалася колькасць М. з выкарыстаннем вольнанаёмнай працы. Належалі яны купцам і мяшчанам. Павялічвалася выкарыстанне вольнанаёмнай працы і ў памешчыцкіх М. Так, у канцы 1850-х г. на 13 цукровых прадпрыемствах памешчыкаў Магілёўскай і Мінскай губ. працавала 435 вольнанаёмных і 466 прыгонных рабочых. З 1840-х г. па Беларусі пачала расці колькасць фабрычных прадпрыемстваў, а сярод М. прыкметна скарацілася колькасць дробных. М. паступова саступіла месца фабрыцы. *З. Ю. Капыскі.*

**МАРА́**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў. На Беларусі яе ўяўлялі чалавекападобнай істотай ростам з тыднёвае дзіця, скура якой пакрыта поўсцю або рэдкім кароткім пер'ем. М. ўвасабляла трывожны сон. Лічылі, што яна перашкаджала дыханню ў час сну, ціснучы на грудзі, горла, і хутка знікала, калі чалавек прачынаўся. *М. Ф. Піліпенка.*

**МАРО́ВАЯ ПА́ННА**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў. Яе ўяўлялі жанчынай у чорнай хустцы. Лічылі, што М. п. прыносіць эпідэмію, мор. Каб засцерагчыся ад павальнай хваробы, увасабленнем якой была М. п., дзяўчаты праводзілі вакол вёскі баразну. Іх суправаджалі старыя жанчыны з косамі, скавародамі. Абрад спраўлялі з шумам, трэскам, крыкам, каб адпужаць М. п. Уяўленне аб М. п. знікла ў канцы 19 — пач. 20 ст.

**МАРШ** (франц. marche літар. шэсце, рух наперад), імправізацыйны танец. Музычны памер $^2/_4$, $^4/_4$. Тэмп умерана хуткі. Назва паходзіць ад муз. жанру — марша. У танцы ўдзельнічае вялікая колькасць выканаўцаў. Асноўныя рухі нагадваюць маршыроўку салдат. Выконваўся звычайна ў канцы вечарынкі, быў абавязковым кампанентам традыцыйнага вясельнага рытуалу. М. танцавалі ў пачатку вяселля, у час провадаў маладых да шлюбу (суправаджальны М.), пры сустрэчы маладых (стрэчны М.), калі абдорвалі маладую (надзельны М.) і калі маладую адпраўлялі да маладога (развітальны М.). Пашыраны па ўсёй Беларусі. У Глыбоцкім р-не зафіксаваны варыянт, у якім, калі госці разыходзіліся з вяселля, танцавалі пад музыку марша на лаўках, пераапрануўшыся хто ў «цыгана», хто ў «мядзведзя». Калі выканаўцы ламалі лаўку, гаспадар павінен быў іх за гэта адорваць. М. як танец выкарыстаны балетмайстрамі ў бел. балетах «Альпійская балада», «Тыль Уленшпігель». *Г. К. Каляда.*

**МАРШЧЭ́ННЕ**, адзін са спосабаў аздаблення традыцыйнага адзення; збіранне тканіны ў дробныя складачкі-зборкі. Называлі таксама забіранне. Вытанчанае гафрыраванне па пэўнаму ліку нітак палатна, дапоўненае арнаментальнай белай, чырвонай, чорнай вышыўкай на зборках, здаўна ўпрыгожвала святочныя жаночыя кашулі (звычайна верх і ніз рукавоў), фартухі, паясное адзенне. Арнамент вызначаўся строгімі геаметрычнымі формамі. М. найбольш пашырана на Палессі і Падняпроўі (буда-кашалёўскі і кобрынскі строі).



**Маршчэнне** на рукаве кашулі. Вёска Руховічы Кобрынскага раёна.

**МАСЛАБО́ЙКА**, бандарны выраб; пасудзіна для збівання масла; тое, што і *бойка*.

**МА́СЛАВА** Галі Сямёнаўна [н. 26.2 (10.3). 1904, Казань], рускі савецкі этнограф. Д-р гіст. н. (1963). Скончыла Маск. ун-т (1924). У 1924—41 навук. супрацоўнік Музея Цэнтр. прамысловай вобласці, Музея народаў СССР. З 1947 у Ін-це этнаграфіі АН СССР (з 1970 навук. кансультант). Аўтар прац «Народнае адзенне рускіх, украінцаў і беларусаў у XIX — пачатку XX ст.» (1956), «Арнамент рускай народнай вышыўкі як гісторыка-этнаграфічная крыніца» (1978), «Народнае адзенне ва ўсходнеславянскіх традыцыйных звычаях і абрадах XIX — пачатку XX ст.» (1984). Даследуе агульныя рысы і своеасаблівасць нар. адзення, арнаменту нар. вышыўкі беларусаў, рускіх і украінцаў, абрадавыя функцыі нар. адзення ўсх.-слав. народаў, яго гісторыю, сацыяльную сімволіку і эстэтычныя рысы. На матэрыялах адзення вывучае таксама гіст.-культурныя сувязі беларусаў з рускімі і ўкраінцамі, этнічныя працэсы ў СССР. За ўдзел у калектыўнай працы «Сучасныя этнічныя працэсы ў СССР» (1975, 2 выд. 1977) Дзярж. прэмія СССР 1981. *М. Ф. Піліпенка.*

**МА́СЛЕНІЦА**, старажытнае перадвеснавое свята ў славянскіх народаў, звязанае з культам прыроды (адраджэннем пладаносных сіл зямлі). Лакальная назва *масленка*, *сырніца*. Асноўная накіраванасць абраднасці М. — провады зімы, паскарэнне прыходу вясны, забеспячэнне багатага ўраджаю і дастатку ў хаце. Святкавалі М. некалькі дзён. У вёсцы яна звычайна пачыналася ў чацвер. Царква прымеркавала М. на нядзелю перад вялікім постам. На масленічным тыдні ў дзень т. зв. святога Уласа ў некаторых мясцінах Беларусі аб'язджалі маладых коней і валоў. У гэты ж дзень моладзь наладжвала гушканне на *арэлях* (магічны сэнс гушканняў — каб лён доўгім рос), каталася на санках, спявала масленічныя песні. Тэматыка іх працоўна-землеробчая, а таксама жартоўна-бытавая і гарэзліва-любоўная. На Беларусі на М. адведвалі бабку-павітуху. Існаваў звычай цягання хлопцамі «калодкі» па сяле з абавязковым заходам у хату, дзе была сталая дзяўчына; яна павінна была пачаставаць іх. Не прыпыніцца з «калодкаю» перад хатаю дзяўчыны лічылася знявагай для яе. Вядомы і інш. звычаі. У панядзелак на масленічным тыдні збіраліся жанчыны, прывязвалі да «калодкі» адзін канец папружкі ці пояса, а другі канец — да халастога хлопца, які сустрэўся ім, як бы ў пакаранне за тое, што ён не ажаніўся за мінулы мясаед (перыяд пасля каляд). Калі хлопец не хацеў цягаць «калодку» за сабою ўвесь дзень, ён мусіў адкупіцца. Тое ж адбывалася і з дзяўчатамі. Заканчвалася М. «запускамі» («запустамі») на малочнае. У нядзелю, калі арганізоўваліся «запускі», на вячэру гатавалі толькі малочныя стравы, сярод якіх важную ролю адыгрывалі сыр, масла, тварог з малаком. На М. абавязкова пяклі бліны. Традыцыі М. захаваліся ў святкаванні провадаў зімы. *А. І. Гурскі.*

**«МАСТА́ЦТВА БЕЛАРУ́СІ»**, штомесячны грамадска-палітычны і навукова-папулярны ілюстраваны часопіс, орган Мін-ва культуры БССР, Дзярж. камітэта па кінематаграфіі, Саюза мастакоў, Саюза кампазітараў, Саюза кінемата-

графістаў і Бел. тэатральнага аб'яднання. Выдаецца з 1983 у Мінску. Друкуе матэрыялы па пытаннях марксісцка-ленінскай эстэтыкі, тэорыі і гісторыі бел. мастацтва, мастацкай спадчыны, асвятляе развіццё сучаснага прафесійнага, нар. і самадзейнага мастацтва, творчасць дзеячаў мастацтва Беларусі. Вядзе хроніку сучаснага мастацкага жыцця рэспублікі, публікуе рэцэнзіі на новыя кнігі. Пад рубрыкамі «Народнае мастацтва», «Традыцыі і сучаснасць», «З народнай спадчыны», «Нататкі з экспедыцый» змяшчае артыкулы пра нар. дойлідства, ткацтва, ганчарства, кавальства, размалёўку, пляценне, разьбярства, новыя запісы нар. песень, танцаў, абрадаў, звычаяў. На старонках часопіса абмяркоўваюцца шляхі і спосабы прадаўжэння колішніх нар. традыцый у сучасным жыцці, змяшчаюцца творчыя партрэты нар. майстроў, вядомых этнографаў, фалькларыстаў і інш. У «М. Б.» друкаваліся этнографы, мастацтвазнаўцы — даследчыкі нар. мастацтва і мастацкіх промыслаў, фалькларысты В. К. Бандарчык, М. Ф. Піліпенка, Т. І. Кухаронак, Л. В. Ракава, А. І. Лакатко, М. Ф. Раманюк, Я. М. Сахута, В. А. Лабачэўская, А. С. Ліс, І. К. Цішчанка, Г. А. Каханоўскі, В. Дз. Ліцвінка, У. І. Раговіч і інш. *Я. М. Сахута.*

**МАСТÓЎСКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Панямонні. Бытаваў ў 19 — пач. 20 ст. пераважна ў Мастоўскім, Шчучынскім і Зэльвенскім р-нах. Жаночы гарнітур складалі кашуля, спадніца з цёмна-сіняй даматканкі, кроеная з 6 кліноў, або андарак з 4 прамавугольных полак (чырвона-малінавага колеру ў вузкія гарызантальныя разнаколерныя паскі), белы або цёмны фартух, аздоблены фальбонамі і карункамі, катанка (накшталт кофты) з белага ці шэрага валенага сукна, аблямаваная чорным аксамітам. Галаўныя ўборы жанчын — каптур, даматканая ці крамная хустка, упрыгожанні — каралі, стужкі, крыжыкі. Мужчынскае адзенне істотных мясц. адрозненняў ад іншых строяў Панямоння не мела. Вопраткі былі белая або шэрая світа, кажух. *М. Ф. Раманюк.*

**МАТАВÍЛА**, прылада для змотвання і размотвання маткоў пражы. Лакальныя назвы моташка, вітуха. Найбольш пашыраным было М., якое ўяўляла сабой невялікі драўляны стрыжань з перпендыкулярна прымацаванымі брускамі на абодвух канцах. Сустракалася таксама вілкападобнае М.— з аднаго боку стрыжань меў натуральную развілку, а з другога — умацаваны брусок. Прынцып работы на абодвух М. аднолькавы: трымаючы ў левай руцэ стрыжань і паварочваючы яго то ўлева, то ўправа, правай рукой намотвалі пражу на бруські. На З, ПнЗ і ў Цэнтр. Беларусі ў канцы 19— пач 20 ст. было пашырана больш удасканаленае М.: брусковы крыж з планкамі на канцах насаджвалі на стрыжань з ручкай (мацаваўся на стойках). Для размотвання пражы з матка ў клубок служыла спец. М.-размотыч: брусковы крыж з дзіркамі для калкоў, на якія надзявалі маток, свабодна круціўся на стрыжні, які ніжнім канцом нерухома мацаваўся на падстаўцы. У некаторых мясцовасцях яго прымацоўвалі да сцяны (на У) або ўстаўлялі ў дзірку ў лаве ці ўслоне (на ПдЗ). *Г. М. Курыловіч.*





**Мастоўскі строй.** Жанчыны ў верхнім адзенні (катанках). Вёска Катчыно Мастоўскага раёна. Пачатак 20 ст.

**Матачнікі.**

**МÁТАЧНІК**, 1) крацістая драўляная пушачка рознай формы з ручкай (да 0,5 м) для часовага ўтрымання і пераноскі пчалінай маткі з адной борці ў другую. Лакальныя назвы рашотка, рашатня. 2) Ячэйка для вывядзення матак. Адрозніваюць тры віды М.: р а я в ы я, што будуюць пчолы на місяцы перад пачаткам раення, с в і ш ч а в ы я — на пчалінай каморцы для вывядзення маткі на замену старой, ш т у ч н ы я — на прывівачнай рамцы з пераносам лічынкі. Апошнія шырока распаўсюджаны на пчолагадавальніках.

**«МАТЛЁТ»** (франц. matelote ад matelot матрос), гарадскі бытавы парнамасавы танец. У некаторых мясцовасцях называўся «Матлот». Музычны памер $^2/_4$, $^4/_4$. Тэмп умерана хуткі. Асноўны малюнак танца — круг. У найбольш распаўсюджаным варыянце «М.» танцоры ў парах выконваюць на крузе блок рухаў: простыя крокі ўперад, назад, прытупы, павароты дзяўчыны пад рукой у хлопца, галоп і г. д. Блок гэтых рухаў паўтараецца некалькі разоў запар. У некаторых раёнах у танцы захаваліся элементы чачоткі. На Віцебшчыне танцоры, выконваючы асноўны блок рухаў, канчалі танец паваротамі і полькай у парах па крузе. У Докшыцкім р-не танец суправаджаўся прыпеўкамі.

Ах, вы дзевачкі, матлёт,
Не хадзіце ў агарод,
У агародзе рэпа, мак,
Хлопцаў трэба любіць так.

Танец зафіксаваны па ўсёй Беларусі.



**Мастоўскі строй.** Святочны касцюм жанчыны. Вёска Струга Мастоўскага раёна. 1920-я г.

**МАТЫКА**, ручная прылада для апрацоўкі глебы (пры праполцы гароднiны, на невялікіх участках ёю акучваюць бульбу). Лакальная назва капаніца. Уяўляе сабой трапецападобную або авальную метал. пласціну (8—10 см), насаджаную на доўгае (70—110 см) драўлянае дзяржальна. Вядомы М. зубчатая (2—4 зубы) і камбінаваныя (з аднаго боку пласціна, з другога — зубы). Трапецападобныя і трохвугольныя здаўна бытавалі амаль па ўсёй

Беларусі, авальныя — больш на Пд (Брэсцкі, Пінскі, Гомельскі, Рэчыцкі р-ны) і на З Беларусі (Пружанскі, Слонімскі, Ашмянскі р-ны). Зубчатыя М. паявіліся пазней. Выраблялі М. мясцовыя кавалі. У наш час іх робяць на прам. прадпрыемствах. На Магілёўшчыне, Гродзеншчыне, Міншчыне, на Пн Віцебшчыны іх наз. матыгамі, зрэдку — цяцкамі, на Гомельшчыне, часткова на Віцебшчыне — капаніцамі, на Брэстчыне і ў некаторых інш. мясцовасцях — гачкамі, на Міншчыне, Пд Гомельшчыны — сапкамі. *Л. І. Мінько.*

**МАТЫЛЁК**, матыль, традыцыйная рыбалоўная снасць тыпу *дарожкі*. Уяўляла сабой металічную пласцінку (бляшку) у форме рыбкі, рухома насаджаную на кавалак дроту. На канцы яго мацаваўся якарок, для маскіроўкі абвязаны пер'ем. У вадзе пласцінка круцілася вакол сваёй восі, імітуючы жывую рыбку. М. цягнулі за чоўнам або лодкай на шнуры, да якога прымацоўвалі грузілы. Шнур намотваўся на спецыяльнае матавільца ці дошчачку. М. вядомы здаўна. У наш час выкарыстоўваецца ў аматарска-спартыўным рыбалоўстве ў традыцыйным выглядзе і як дэталь спінінга. *І. М. Браім.*

**«МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ГЕАГРАФІІ І СТАТЫСТЫКІ РАСІІ»**, «Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба», серыя прац па гісторыі, геаграфіі і этнаграфіі заходніх губерняў Расіі. Далучэнне ў канцы 18 ст. Беларусі да Расійскай імперыі патрабавала ўсебаковых ведаў пра гіст. мінулае, прыроду і насельніцтва гэтага краю з мэтай уключэння яго ў агульнарасійскую сістэму кіравання і правядзення пэўнай сацыяльна-эканам. палітыкі. Значная частка накопленай інфармацыі сканцэнтроўвалася ў ваенным міністэрстве і прызначалася для службовага карыстання. У 1857—59 выдадзены спецыяльныя інструкцыі і праграмы для комплекснага вывучэння і апісання зах. губерняў. Адначасова афіцэрам Генеральнага штаба было даручана абагульненне ўсіх звестак па асобных губернях. У 1861 у Пецярбургу надрукаваны «Матэрыялы... Віленская губ.» (складальнік А. Карэва) і «Матэрыялы... Ковенская губ.» (Д. Афанасьеў), у 1862 — «Матэрыялы... Смаленская губ.» (М. Цэбрыкаў), у 1863 — «Матэрыялы... Гродзенская губ.» (ч. 1—2 і дадаткі ў 2 т., П. Баброўскі), у 1864— «Матэрыялы... Мінская губ.» (ч. 1—2, І. Зяленскі), у 1865 — «Матэрыялы... Чарнігаўская губ.» (М. Дамантовіч). Апрача матэрыялаў, сістэматызаваных ваеннымі ведамствамі і статыстычнымі камітэтамі, складальнікі выкарыстоўвалі працы па геаграфіі, гісторыі і этнаграфіі М. Балінскага, М. Карамзіна, А. Кіркора, Ю. Крашэўскага, Т. Нарбута, У. Сыракомлі, Я. Тышкевіча, П. Шпілеўскага і інш. Найбольш поўныя і змястоўныя матэрыялы ў кнігах, прысвечаных Гродзенскай і Мінскай губ. Іх складальнікі дэталёва ахарактарызавалі геагр. ўмовы, мясцовую флору і фауну, шляхі зносін, гіст. мінулае краю, этнічны, сацыяльны і канфесіянальны склад насельніцтва, яго заняткі, ежу, жыллё, адзенне, побыт, нар. каляндар, звычаі, абрады, фальклор. Характарызуючы этнічную сітуацыю ў Гродзенскай губ., Баброўскі адзначаў «найвялікшую разнастайнасць, што пануе зараз ва ўсіх праявах народнага жыцця, мове, норавах, звычаях». Аўтары «Матэрыялаў...» адзначалі прыродныя і этнагр. асаблівасці, што найб. выразна праяўляліся ў паўн. і паўд. частках губерняў. У паўн. частцы, на думку аўтараў, пражывалі чарнарусы, «што амаль нічым не адрозніваліся ад беларусаў», у паўд.— *палешукі*, пінчукі, падлясяне; апошнія, на іх думку, больш за другіх з усх. славян пазналі польскі ўплыў. Мяжу паміж імі Баброўскі праводзіў па р. Нараў, вярхоўі Ясельды на Пружаны і Сялец, Зяленскі прадаўжаў яе далей на тэр. Мінскай губ. праз Слонім, Слуцк, Бабруйск. Погляды аўтараў на бел. этнас адлюстроўвалі жывы працэс фарміравання бел. нацыі, што захоўвала яшчэ сляды мясцовых этнагр. асаблівасцей і зямляцкай свядомасці. «Матэрыялы...» — каштоўная крыніца па вывучэння жыцця і традыцыйна-бытавой культуры бел. народа, яго сувязей з рус., укр., польскім, літоўскім і інш. народамі. *В. С. Цітоў.*


Матыкі.


Матавіла на стаяках.


Матылёк.

**«МАТЭРЫЯЛЫ ПА ЭТНАГРАФІІ РАСІІ»**, «Материалы по этнографии России», зборнік матэрыялаў этнаграфічнага аддзела Рускага музея ў Ленінградзе. Выдадзены 4 т. Знаёмілі шырокае кола грамадскасці з сабранымі ў фондах музея калекцыямі і вынікамі этнагр. экспедыцый у розныя куткі Расіі. Выданне добра ілюстравана. У 1-м (1910) і 2-м (1914) т. надрукаваны адпаведна артыкулы А. К. Сержпутоўскага «Земляробчыя прылады Беларускага Палесся» і «Бортніцтва на Беларусі». У аснову гэтых публікацый пакладзены матэрыял, сабраны аўтарам у час этнагр. экспедыцый у 1906—07 у Мазырскі і Слуцкі пав. Матэрыяльнай культуры асобных рэгіёнаў РСФСР і Украіны прысвечаны 3-і (вып. 1—2, 1926—27) і 4-ы (вып. 1—2, 1927—29) тамы. *В. С. Цітоў.*

**МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА**, сукупнасць матэрыяльных каштоўнасцей, створаных чалавецтвам у працэсе гістарычнай грамадска-карыснай дзейнасці,— прылады працы, *жыллё*, *адзенне*, *ежа*, транспартныя сродкі, культавыя і бытавыя рэчы, прадметы мастацтва і інш. Адлюстроўвае ўзровень вытворчых сіл і экалагічнага асваення прыроды чалавекам. Арганічна звязана з *духоўнай культурай* у адзі-

най функцыянальнай сістэме. Узнікла разам з вырабам чалавекам прылад працы, што азначала пераход ад жывёльнага стану да мэтанакіраванай працоўнай дзейнасці. Гістарычна развівалася паступальна, захоўваючы пераймальныя сувязі, ад прасцейшых форм, нярэдка запазычаных у прыроды, да складаных канструкцый, разнастайных спецыялізаваных прылад і прафесійных твораў мастацтва.

М. к. старажытных часоў узнаўляецца на падставе археалагічных помнікаў, часткова пісьмовых крыніц, выяў і параўнальнага гісторыка-этнагр. вывучэння. Паводле прыродных матэрыялаў, асвоеных і ўключаных у вытворчы працэс, і адпаведных ім прылад, у гісторыі М. к. на Беларусі вылучаюць наступныя археал. перыяды, або вякі: каменны (эпохі палеаліту — да канца 9-га тысячагоддзя да н. э., мезаліту — 8200—5-е тысячагоддзе, неаліту — 4—2-е тысячагоддзі да н. э.), бронзавы (2200—700-я г. да н. э.), жалезны. Матэрыяльная вытворчасць у палеаліце і мезаліце была абмежавана здабываннем і пярвічнай апрацоўкай з дапамогай прымітыўных прылад гатовых прадуктаў прыроды. Аснову ўласцівай гэтаму часу спажывецкай гаспадаркі складалі здабыўныя промыслы — *збіральніцтва, паляўніцтва, рыбалоўства*. Ім адпаведалі архаічная зброя і немудрагелісты інвентар — завостраная палка, рагаціна, дубіна, кап'ё з крамянёвым ці касцяным наканечнікам, дроцік, гарпун, крамянёвыя разцы, клінкі, шылы, каменнае рубіла, скрабло, капалка і інш. Прылады з каменю і косці часоў палеаліту знойдзены на Беларусі пры раскопках каля в. Абідавічы Быхаўскага, Бердыж Чачэрскага, Юравічы Калінкавіцкага р-наў. Важнай вехай у пазнанні і асваенні сіл прыроды было «прыручэнне» агню. Каля 10 тыс. гадоў таму назад вынайдзены лук і стрэлы, што значна павысіла эфектыўнасць палявання на дзічыну. Апрацоўка каменю дасягнула філіграннай тэхнікі ўжо ў эпоху неаліту; у вытворчую практыку ўвайшлі свідраванне, шліфоўка і паліроўка мінеральных парод. У гэты перыяд чалавек навучыўся выбраляць ганчарны посуд, што палепшыла харчовы рацыён і дало магчымасць гатаваць спецыяльныя стравы. Быў вынайдзены просты ткацкі стан. Больш разнастайнымі становяцца спосабы палявання і рыбалоўства. У паляванні побач з лукам шырока ўжываліся пасткі, лоўчыя ямы; у рыбалоўстве — човен, вуды, восці, кашы, сачкі: з'явіліся рыбалоўныя сеткі. Маштабныя зрухі ў гаспадарцы і М. к. далі падставу называць гэты перыяд неалітычнай рэвалюцыяй. Знаходкі каменных матык, крамянёвых сярпоў, зерняцёрак дазваляюць меркаваць пра пачатак матычнага *земляробства*. Да гэтага часу адносіцца і прыручэнне дзікіх жывёл (першая свойская жывёла — сабака — прыручана яшчэ ў мезаліце). Узнікненне земляробства і *жывёлагадоўлі* азначалі важную веху ў гісторыі чалавецтва — пераход ад спажывецкай да вытворчай гаспадаркі з аседлым ладам жыцця. У неадзіце былі пашыраны лёгкія жытлы шалашнага тыпу з вогнішчам у цэнтры. У век бронзы іх змянілі больш грунтоўныя пабудовы каркасна-слупавой канструкцыі. Адсутнасць на тэр. Беларусі радовішчаў бронзы абумовіла параўнаўчую нешматлікасць бронзавых прылад, у асноўным зброі (наканечнікаў, кап'яў, клінкоў, сякер), бытавых рэчаў і ўпрыгожанняў. Да пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. плямёны бронзавага веку (гл. *Сярэднедняпроўская культура, Сосніцкая культура, Тшцінецкая культура*) выкарыстоўвалі ў пераважнай большасці, як і раней, каменныя, касцяныя і драўляныя прылады, драўляны і ганчарны посуд. Разам з тым пашырэнне медных і бронзавых рэчаў вызначала новыя грані ў развіцці тэхнічнага прагрэсу і М. к. Яно паклала пачатак металургіі. Разам з прывазной бронзай і меддзю пашыраюцца тэхналагічныя веды, вытворчыя навыкі, узаемна суадносяцца і прымяркоўваюцца культурныя набыткі розных народаў. Асваенне мясцовых радовішчаў балотных руд (бурага жалезняку) у 7 ст. да н. э. паклала пачатак жалезнай металургіі на Беларусі. Шырокае ўкараненне жалезных прылад (сякеры, матыкі, рала з жалезным нарогам, сярпа і інш.) прывяло да карэнных зрухаў у земляробстве, якое становіцца галоўным гаспадарчым заняткам. У 7 ст. да н. э.— 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. на тэр. Беларусі існавала некалькі этнічных аб'яднанняў, носьбітаў мілаградскай, штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай і зарубінецкай культур (гл. адпаведныя артыкулы). Апошнюю большасць даследчыкаў схільны лічыць славянскай. Да канца 1-га тысячагоддзя н. э. слав. насельніцтва засяліла амаль усю тэр. Беларусі. Абрад трупаспалення, што бытаваў у 2-й пал. 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя ў слав. і балцкіх народаў, абмяжоўвае звесткі пра М. к. гэтага часу. Тым не менш наяўны археалагічны матэрыял сведчыць пра паскоранае развіццё вытворчых сіл і існаванне рэгіянальных этнічных асаблівасцей, якія прасочваліся ў комплексе гаспадарчых прылад і інструментаў, у жыллі, адзенні, жаночых упрыгожаннях, пахавальных абрадах. Параўнаўча высокі ўзровень М. к. абумовіў індывідуалізацыю сельскай гаспадаркі, замену родавай *абшчыны* суседскай. У 11—12 ст. характэрныя для слав. насельніцтва жытлы — паўзямлянкі і зямлянкі (што, магчыма, было звязана з працэсам асваення краю і ўмовамі паўваеннага становішча) саступілі месца наземным зрубным ці зрубна-слупавым пабудовам. У бліжэйшым ад уваходу кутку аднакамернага жылля размяшчаліся курныя глінабітныя печы ці печыкаменкі. У 11—13 ст. у асноўным склаліся найважнейшыя элементы і структура *інтэр'ера хаты*, вядомай па этнагр. матэрыялах 18—19 ст. Людзі сяліліся пераважна паблізу невялікіх рэк з аптымальнымі ўмовамі і расправоўвалі лясныя *ляды*; разам з тым пашыралася і папаравая сістэма земляробства ў форме трохполля. Вывучэнне рэштак культурнай флоры паказвае, што яна ўжо ў той час уключала бадай усе віды культурных раслін сучаснага земляробства. Развіццё М. к. беларусаў ішло па шляху дыферэнцыяцыі яе структурных кампанентаў на асобныя тыпалагічныя варыянты, якія адпавядалі пэўнаму роду жыццядзейнасці з улікам мясцовых экалагічных і сацыяльна-эканам. умоў. Характарыстыка М. к. ускладнялася саслоўнай градацыяй, сацыяльнымі інтарэсамі, запатрабаваннямі, эстэтычнымі густамі. Асноўнымі стваральнікамі М. к. былі бел. сяляне і рамесны люд. Ва ўмовах патрыярхальнага ладу жыцця кожны сялянскі двор выступаў як самастойны вытворчы калектыў з шырокім дыяпазонам гаспадарчай дзейнасці. Жыццёвыя прыпасы, сельскагаспадарчыя прадукты, тканіны, адзенне, абутак, хатняе начынне, прылады працы, транспартныя сродкі — усё гэта ў пераважнай большасці выраблялася на месцы ўласнымі рукамі. Універсальны характар сялянскай гаспадаркі з'яўляўся перадумовай шырокага развіцця нар. умельства, мясцовых самадзейных традыцый у М. к. Рост гарадоў і гандлю садзейнічаў развіццю цэхавых рамёстваў, іх спецыялізацыі і павышэнню грамадскай ролі ў сістэме культуры (гл. *Рамёствы і промыслы*). У розных рэгіёнах Беларусі склаліся гісторыка-этнагр. асаблівасці, што адлюстроўвалі багацце і варыяцыйнасць разнастайнасць нар. культуры, яе самадзейны характар і творчыя патэнцыялы (гл. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён*). Аўтаномнасць і адносная ізаляцыя ад культуры пануючага класа садзейнічалі развіццю самабытных элементаў і захаванасці ў культуры беларусаў агульнаславянскіх рыс, што прасочваюцца ў этнагр. матэрыяле да нашага часу. Прамысловы пераварот і развіццё машыннай індустрыі ўнеслі істотныя змены ў развіццё М. к., якая ў многім атрымала стандартызаваныя формы і адлюстроўвае культуру грамадскай вытворчасці. Аднак значэнне машын не толькі ў замене ручной працы, а і ў аслабленні яе для сапраўднай творчасці. М. к. ў наш час прадаўжае развівацца ў значнай ступені як заснаваная на ручной працы хатняя вытворчасць, індывідуальная рамесная дзейнасць і дэкаратыўна-прыкладная творчасць (гл. *Народныя мастацкія промыслы*). Вырабы нар. рамяства з іх глыбокімі традыцыямі былі і застаюцца ўзорамі для развіцця нацыянальных форм прафесійнага мастацтва, прадметы якога ўпрыгожваюць наш паўсядзённы побыт. У апошні час назіраецца адраджэнне на новай сацыяльна-эканам. аснове традыцыйных нар. промыслаў — узорнага *ткацтва*, вязання, *вы-*

*шыўкі, пляцення* з лазы і саломкі, *разьбы па дрэве*, мастацкай апрацоўкі металаў (гл. *Кавальства*) і інш. Асваенне лепшых традыцый нар. рамяства з'яўляецца адным з найважнейшых кірункаў развіцця сучаснай мясцовай прамысловасці. *В. С. Цітоў.*

**МАЧА́ЛА**, валакністая частка *лубу* (ліпавай кары), аддзеленая пасля адмочкі ад астатніх яго тканак. Выкарыстоўвалася для ткання (пляцення) рагож, цыновак, віцця вяровак.

**МАЧА́НКА**, традыцыйная беларуская страва, тое, што і *верашчака*.

**МАЧА́ННЕ**, страва, як дадатак да бліноў. Гатуецца як *верашчака*, са скварак з тукам (часам забельваецца смятанай), а таксама з льнянога ці канаплянага Семя; з яец, раскалочаных з мукой і малаком ці вадой, з размятага тварагу з малаком ці смятанай; з селядцоў, вараных у падкалочанай мукой вадзе (Камянецкі р-н, гл. ў арт. *Лёк*). Вядома паўсюдна.

**МА́ЧАХА**, нядродная маці дзецям мужа ад яго першага шлюбу.

**МАШТА́РНЯ** (ад польск. masztalerz канюшы, старшы конюх), назва жытла конюхаў у панскіх сядзібах 16—19 ст. або невялікай майстэрні па рамонту экіпажаў і вазоў, а таксама каморы пры стайні. Як жылыя збудаванні М. ўяўлялі сабой традыцыйнае нар. жыллё (1-, 2- і 3-камернае), часам з прыбудаванымі пры жылых памяшканнях гаспадарчымі каморамі. Жылыя памяшканні мелі 2—4 акны, глінабітныя курныя печы або кафляныя печкі-грубкі, сталы, лавы і інш. традыцыйнае начынне. Нярэдка М. прыбудоўвалі да тарцоў стайняў, часам будавалі ў 2 паверхі, у якіх размяшчаліся жылыя і гаспадарчыя памяшканні. *Ю. А. Якімовіч.*

**МАШЫ́НСКІ** (Moszyński) Казімір (5.3. 1887, Варшава — 30.3.1959), польскі і беларускі этнограф, фалькларыст, мовазнавец. Акадэмік Польскай АН (1938), праф. Ягелонскага (1926—35, 1945—59) і Віленскага (1935—40) ун-таў. Прэзідэнт Польскага народазнаўчага т-ва. Вучыўся ў Бёрнскім і Фрыбурскім ун-тах (Швейцарыя, 1906—09), у Кракаўскай акадэміі мастацтваў (1910). Пад уплывам Ч. Пяткевіча зацікавіўся Палессем. У 1914 быў у экспедыцыі ў Мазырскім пав., вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў. Па матэрыялах экспедыцыі напісаны арт. «Нататкі пра славянскую тапаграфічную і фізіяграфічную тэрміналогію, заснаваныя пераважна па беларуска-палескім матэрыяле» (1921), «Пра народную культуру паўднёва-сярэдняга Палесся», «Выпальванне цаліны», «Навагрудчына ў этнаграфічных адносінах» (усе 1925). Матэрыялы экспедыцый абагульніў у манаграфіі «Усходняе Палессе. Этнаграфічныя матэрыялы...» (1928), дзе адлюстраваны прырода краю, побыт, заняткі жыхароў, іх духоўная і грамадская культура (абрады, вераванні, звычаі, вуснапаэтычная творчасць). У 3 кнігах капітальнай працы «Народная культура славян» (1929—39, 2 выд. 1967—68) спрабаваў абагульніць звесткі амаль з усяго слав. рэгіёна, разглядаў бел. культуру, фальклор нараўне з усёй агульнаслав. культурай. У 1932 разам з Ф. М. Калэсам ездзіў у Цэнтр. Палессе (цяпер Салігорскі і Лунінецкі р-ны), запісаў на фанограф выкананыя на розных інструментах мелодыі, песні; напісаў арт. «Пра музычна-этнаграфічныя даследаванні на Палессі ў 1932 г.» (1934). Бел. матэрыял лёг у аснову публікацый «Беларускі «спор» і «спарыш» (1929—30), «Сучасны стан меліяграфіі карэннай Беларусі і Палесся» (1934), «Пра палескія песні» (асталася ў рукапісе). Аўтар прац «Атлас народнай культуры Польшчы» (сш. 1—3, 1934—36), «Чалавек. Уступ да агульнай этнаграфіі і этналогіі» (1958), «Пра спосабы даследавання матэрыяльнай культуры праславян» (1962).

*Літ.:* Kazimierz Moszyński: Zycie i twórczość. Wrocław ets., 1976; Васілевіч У. Казімір Машынскі//Полымя. 1987. № 5. *У. А. Васілевіч.*

**МЕДАВУ́ХА**, традыцыйны мядовы напітак. Іншыя назвы — мядуха, медуніца. Мёд ці адходы пры медагонцы разбаўляюць гатаванай вадой, дадаюць дрожджы, хмель і трымаюць 6—8 сутак у халодным месцы. Вядома М. паўсюдна.

**МЕДАГО́НКА**, машынка для выдалення мёду з сотаў. Лакальныя назвы пушніца, цэнтрабежка. Вынайдзена ў 1865 чэшскім пчаляром-аматарам Ф. Грушкай. Разам са сканструяваным П. Пракаповічам рамовым вулеем і прапанаваным у 1857 І. Мерынгам спосабам прыгатавання штучнай вашчыны паклала пачатак сучаснаму этапу *пчалярства*. Вядомы М. розных канструкцый і мадэлей, але ўсе яны працуюць на выкарыстанні цэнтрабежнай сілы. Пры кручэнні барабана з распячатанымі сотамі мёд выпадае з каморак (чарачак) і па ўнутранай паверхні сценак корпуса (раней цэбра) сцякае ўніз, адкуль зліваецца нагбом або па краніку. Пры выкачванні мёду М. вашчына не псуецца і прыдатная для паўторнага выкарыстання, што эканоміць сродкі, час, палягчае працу пчол, бо на выраб толькі 400 г воску яны выдаткоўваюць ад 2 да 8 кг мёду. Сучасныя заводскога вырабу М. падзяляюцца на хордавыя (у іх рамкі з сотамі трэба паварочваць, бо мёд выкачваецца толькі з аднаго боку рамкі) і радыяльныя (адкачка ідзе адначасова з абодвух бакоў, але працягваецца даўжэй). М. вырабляюцца на 2, 3, 4, 6, 8 і больш рамак. *С. Ф. Цярохін.*

**МЕДАРЭ́З**, пчалярскі нож для падрэзкі сотаў, выразвання *маточнікаў*, ускрыцця забруса (васковая пячатка спелага мёду) і інш. Называўся таксама рэзічка. Адрозніваецца рэгіянальнымі канструкцыйнымі асаблівасцямі (шырынёй і даўжынёй ляза, спосабам заточкі). У наш час выкарыстоўваюцца разнастайныя па форме і канструкцыі як традыцыйныя, так і сучасныя М. У апошні час для ўскрыцця забруса выкарыстоўваюць вілападобныя М. *С. Ф. Цярохін.*







Медарэз.

Медагонкі.

**МЕ́ДНІЦТВА**, тэхніка вырабу гаспадарчых і мастацкіх рэчаў з медзі; галіна дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Вядома ў краінах Стараж. Усходу з 4-га тысячагоддзя да н. э., у Еўропе — з 3-га тысячагоддзя да н. э. На Беларусі вытворчасць мастацкіх вырабаў з прывазной медзі і яе сплаваў (дыядэмы, бранзалеты, пярсцёнкі, спражкі і інш.) вядома з часоў бронзавага веку. Росквіту дасягнула ў 17—18 ст. У многіх гарадах і мястэчках працавалі майстры-меднікі і катляры, якія з прывазной ліставой медзі выраблялі разнастайны літургічны і гаспадарчы посуд: тазы, падносы, чайнікі, кварты, чашы, каўшы, блюды, кубкі і

інш. У сярэдзіне 17 ст. бел. майстры (Ф. Мікулаеў, М. Сямёнаў і інш.) працавалі ў Рус. дзяржаве, дзе выраблялі для маскоўскіх храмаў і царскага двара царк. і гасп. начынне. Тэхніка і віды мастацкай апрацоўкі медзі разнастайныя: выкалатка, паліроўка, паянне, чаканка, гравіраванне арнаментальных (раслінных, зааморфных) і сюжэтна-тэматычных кампазіцый. Вялікіх памераў тазы, падносы, жароўні выцягваліся з аднаго кавалка медзі. Пасудзіны больш складаных форм выраблялі з дапамогай спец. прыстасаванняў: у цісках мацавалі спружыністы рычаг, другі канец якога прасоўвалі ўнутр пасудзіны; стукаючы малатком па рычагу, яго канцом выбівалі патрэбную форму. Знутры пасудзіну лудзілі. У канцы 18—19 ст. М. займаліся майстры некаторых рудняў на Гомельшчыне, Гродзеншчыне і інш. М. таго часу вызначалася своеасаблівым спалучэннем усх. форм з традыцыйнымі мясцовымі. Гляк, тазы, кварты, дайніцы, збаны, вёдры, блізкія па форме аналагічнаму глінянаму і драўлянаму посуду, былі пашыраны неравяжна ў абыходку мяшчан. Асноўны від дэкаратыўна-мастацкага аздаблення вырабаў — фактурная апрацоўка паверхні, што давала прыгожае зіхаценне. У пач. 20 ст. М. занепала. Калекцыі меднага посуду 18—19 ст. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі старажытнай бел. культуры ІМЭФ АН БССР. *Я. М. Сахута.*



**Медніцтва.** Медны посуд. Канец 19 — пачатак 20 ст.

**МЕ́ЕР** Андрэй Казіміравіч, беларускі краязнавец 2-й пал. 18 ст. Аўтар працы «Апісанне Крычаўскага графства або былога староства», складзенай у 1786, у якой побач з характарыстыкай прыродна-геагр. умоў, стану сельскай гаспадаркі і мануфактурных прадпрыемстваў, складу насельніцтва па этнічнай і канфесіянальнай прыкметах апісаў нар. побыт і культуру беларусаў, змясціў некалькі бел. фальклорных твораў. У процівагу рэакцыйным поглядам на народ М. станоўча характарызаваў бел. сялян. Яго праца — каштоўная крыніца для вывучэння гісторыі і культуры Беларусі. Яна надрукавана са скарачэннямі Е. Р. Раманавым у зб. «Могилёвская старина» (вып. 2, 1901). Рукапіс зберагаецца ў архіве Казанскага ун-та. *В. К. Бандарчык.*

**МЕ́РА**, 1) адзінка вымярэння (напр., мера часу). 2) Адзінка вымярэння масы ў сістэме мер Вял. кн. Літоўскага. Раўнялася 1 *пуду*. 3) Тое, чым вымяраюць што-небудзь (мерка).

**«МЕ́СЯЦ»**, гарадскі бытавы танец. Называлі таксама «месячык». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Вядомы з канца 19 ст. Першапачаткова быў распаўсюджаны ў асяроддзі гараджан, пазней — і ў асяроддзі вясковых жыхароў, дзе зазнаў уплыў нар. харэаграфіі. Мае мноства варыянтаў. Найбольш пашыраны, калі выканаўцы, стоячы ў парах тварам у твар, узяўшыся за рукі, выконваюць блок рухаў: прыстаўныя крокі ўправа, улева, плясканне ў далоні, павароты дзяўчыны пад рукой у хлопца, павароты ў вальсе і г. д. Гэты блок рухаў танцоры выконваюць некалькі разоў запар. У Чэрвеньскім р-не вядомы варыянт, у якім выканаўцы папарна ішлі па крузе — раптоўна хлопцы кладліся на падлогу, а дзяўчаты ў гэты час, прытанцоўваючы каля іх, рабілі прыстаўныя крокі ўправа, улева. Музычнае суправаджэнне танца — нар. песня «Свеціць месяц», ад якой паходзіць назва танца «М.». У некаторых раёнах Віцебскай вобл. мелодыя гэтай песні суправаджалася прыпеўкамі:

Што за месяц, што за ясны,
Ноччу свеціць, а ў дзень не,
Што за мілы, за дружочак,
Словам любіць, сэрцам не.

Зафіксаваны па ўсёй Беларусі. *Г. К. Каляда.*



**«Месяц».** Выконваюць удзельніцы фальклорнага калектыву з вёскі Стракавічы Светлагорскага раёна.

**МІГРА́ЦЫЯ НАСЕ́ЛЬНІЦТВА** (лац. migratio ад migro пераходжу, перасяляюся), тэрытарыяльнае перамяшчэнне людзей (мігрантаў), звязанае з пераменай месца жыхарства. М. н.— складаны грамадскі працэс, які закранае ўсе бакі сацыяльна-эканам. жыцця. Побач з тэрмінам М. н. ўжываюць тэрміны: механічны рух насельніцтва, перасяленне насельніцтва, пераразмеркаванне насельніцтва і працоўных рэсурсаў. Паводле тэрмінаў перамяшчэння міграцыя бывае п а с т а я н н а й, ці н е з в а р о т н а й (з канчатковай пераменай пастаяннага месца жыхарства), ч а с о в а й, ці з в а р о т н а й (перасяленне на дастаткова працяглы, але абмежаваны тэрмін), якая ўключае с е з о н н у ю (пераезды на работу ў пэўныя перыяды года) і м а я т н і к а в у ю (штодзённыя ці штотыднёвыя паездкі на працу ці вучобу за межы месца жыхарства). Паводле тэрытарыяльных і геагр. прыкмет вылзяляюць з н е ш н ю ю і ў н у т р а н у ю М. н. Знешняя, звязаная з перасячэннем дзярж. граніцы, атрымала назву міжнародная М. н. Яна падзяляецца на эміграцыю (перасяленне ў інш.

краіну на пастаяннае ці часовае месца жыхарства) і іміграцыю (уселенне ў краіну на пастаяннае ці часовае месца жыхарства). Ва ўнутранай міграцыі адрозніваюць патокі ўнутры- і міжрэспубліканскія, унутры- і міжабласныя, унутры- і міжраённыя. Асноўны кірунак міграцый — з сельскай мясцовасці ў гарады. З развіццём урбанізацыі павышаецца значнасць і міжгарадскіх перамяшчэнняў насельніцтва.

У этнагр. плане вылучаюць 2 віды М. н.: міграцыя ў межах уласна этнічнай тэрыторыі і міграцыя ў іншаэтнічнае асяроддзе. У другім выпадку ў мігрантаў мяняюцца не толькі сацыяльна-эканам., але моўныя і культурныя сувязі з навакольным насельніцтвам. М. н. спрыяе пашырэнню зносін паміж людзьмі, разбурэнню міжэтнічных бар'ераў, развіццю этнічных працэсаў; этнічныя працэсы ў значнай меры вызначаюць інтэнсіўнасць і напрамак перамяшчэння насельніцтва.

Міграцыйны працэс складаецца з 3 стадый: падрыхтоўчая (т. зв. патэнцыяльная міграцыя), асноўная (уласна перасяленне насельніцтва) і заключная (прыжывальнасць, адаптацыя мігрантаў). На М. н. уплывае цэлы комплекс фактараў, інтэнсіўнасць якіх розная для розных раёнаў, часоў і груп насельніцтва. Галоўныя — эканам. фактары. Асобае значэнне маюць этнічныя фактары. Кожны мігрант прадстаўляе пэўную нацыянальнасць, з'яўляецца носьбітам яе мовы, псіхалогіі, самасвядомасці, культуры. Таму М. н. аказвае істотны ўплыў на духоўныя каштоўнасці этнічных супольнасцей. Удзел розных народаў у міграцыйных працэсах неаднолькавы. Па міграцыйнай актыўнасці ў СССР беларусы займаюць 4-е месца, уступаючы рускім, літоўцам, казахам (1979). Інтэнсіўнасць міграцый карэннага насельніцтва ў інш. рэспубліках тым вышэй, чым бліжэй культура, побыт, мова ў раёнах усялення. Этнічны фактар можа запаволіць ці паскорыць працэс міграцыі. На М. н. уздзейнічаюць дэмаграфічныя, прыродныя, культурныя, маральныя, сацыяльна-псіхалагічныя, палітычныя, ваенныя і інш. фактары.

Асноўныя формы міграцыі ў СССР — арганізаваная (аргнабор, грамадскі прызыў, перавод з аднаго месца работы на другое, планавае перасяленне, размеркаванне пасля заканчэння вучобы) і індывідуальная. Па памерах і інтэнсіўнасці пераважае індывідуальная М. н. Стварэнне асноў адзінай і рэгіянальнай міграцыйнай палітыкі на дзярж. узроўні спрыяе рацыяналізацыі міграцыйных працэсаў, павышэнню іх эканам. і сацыяльнай эфектыўнасці, выяўленню рэзерваў агульнага развіцця. М. н. адыгрывае важную ролю ў жыцці грамадства. Яна забяспечвае прасторавую рухомасць насельніцтва, змяняе яго размяшчэнне, пераразмяркоўвае па тэрыторыі, уносіць якасныя змены ў структуру, спрыяе абмену працоўнымі навыкамі і вытворчым вопытам, вядзе да абнаўлення кадраў, непасрэдна звязана з сацыяльнай, галіновай і прафесійнай мабільнасцю насельніцтва. Важнае месца займае і ў фарміраванні ўсебакова развітай асобы, у павышэнні матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню працоўных.

На Беларусі М. н. ў дарэвалюцыйны час была выклікана аграрным перанасяленнем. Беззямельныя сяляне ў пошуках працы, т. зв. вольнай або таннай зямлі мігрыравалі ў Сібір, цэнтр. раёны Расіі і за межы краіны (у асн. у ЗША і Канаду). Толькі за 20 перадрэвалюцыйных гадоў з Беларусі ва ўсх. раёны Расіі перасялілася 520 тыс. сялян. За 1895—1914 за мяжу выехала каля 100 тыс. чал. Перасяленні з вёскі ў горад у гэты перыяд былі невялікія з-за слабага развіцця прамысловасці. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі змяніліся сацыяльныя абставіны ў краіне, што паўплывала на дэмаграфічныя, у т. л. міграцыйныя працэсы. У ходзе сацыялістычнага будаўніцтва міграцыі абумоўліваліся эканам. патрэбамі краіны, неабходнасцю пераразмеркавання працоўных рэсурсаў, асваеннем прыродных багаццяў і выраўноўваннем узроўняў развіцця народаў (эканам. і культурнага). Да пач. 1930-х г. на М. н. адбівалася эканам. адсталасць і аграрная перанаселенасць, што засталіся ў спадчыну ад царызму. У перадваенныя гады значна вырасла колькасць гарадскога насельніцтва. З 1926 па 1939 удзельная вага яго павялічылася на 8 % і склала 25 % ад усяго насельніцтва БССР. Гэта было абумоўлена міграцыяй сельскіх жыхароў у гарады. У гэты перыяд побач з пашырэннем унутрырэспубліканскіх міграцый павялічыліся значныя маштабы міжрэспубліканскіх міграцый — адток насельніцтва ў інш. сав. рэспублікі. За 1926—38 ён склаў 617 тыс. чал. Вялікія міграцыйныя зрухі адбыліся ў гады Вял. Айч. вайны. Толькі ва ўсх. раёны краіны з БССР было эвакуіравана 1500 тыс. чал. За час акупацыі каля 380 тыс. жыхароў рэспублікі фашысты прымусова вывезлі на катаржныя работы ў Германію. Больш 1100 тыс. беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі змагаліся на франтах вайны. Пасля вызвалення Беларусі значная частка эвакуіраванага насельніцтва вярнулася ў рэспубліку. Нягледзячы на вялікія страты насельніцтва, БССР у пасляваенныя гады не толькі забяспечыла ўласныя патрэбнасці ў рабочых руках, але і аказала дзейсную дапамогу спецыялістамі і рабочымі ў прамысловым і с.-г. асваенні Сібіры, Казахстана і інш. раёнаў краіны. За 1950—65 адмоўнае сальда міграцыі з рэспублікі склала больш 1 млн. чал.

З 1965 ва ўнутранай М. н. адбыліся істотныя змены. Высокія тэмпы эканам. развіцця Беларусі, рост прамысловага патэнцыялу паскорылі урбанізацыю і звязаныя з ёю перамяшчэнні сельскага насельніцтва ў гарады. Колькасць гарадскога насельніцтва няўхільна расце (за 1970—79 на Беларусі павялічылася на 1355 тыс. чал., г. зн. на 12 %). У апошнія 10 гадоў у гарадское насельніцтва штогод улівалася каля 80 тыс. чал. Адток насельніцтва за межы рэспублікі значна скараціўся. За 1959—70 адмоўнае сальда міграцый склала 286,4 тыс. чал., за 1970—79 — 81,7 тыс. чал. У 80-я г. міграцыйны адток у асноўным ураўнаважаны з прытокам. Міграцыйныя сувязі БССР з саюзнымі рэспублікамі характарызуюцца істотнай розніцай у інтэнсіўнасці і выніках перамяшчэнняў насельніцтва. Найбольш актыўна абмен насельніцтвам ідзе паміж БССР і РСФСР, УССР, Каз. ССР, Літ. ССР, Латв. ССР. Адмоўны баланс міграцыі назіраецца з рэспублікамі Прыбалтыкі, паўд.-зах. і цэнтр. раёнамі РСФСР, паўд. раёнамі УССР, дадатны баланс з Казахстанам. З астатнімі раёнамі краіны Беларусь мае практычна нулявое сальда міграцыі. Узрастае і роля міжгарадской міграцыі. Малыя і сярэднія гарады збіраюць у сябе насельніцтва навакольных вёсак і аддаюць сваё насельніцтва вял. гарадам. Шмат невялікіх гарадоў, пасёлкаў гарадскога тыпу маюць адмоўны баланс міграцыі. У той жа час у прамысловыя цэнтры, цэнтры адміністрацыйных тэрыторый, гарады-навабудоўлі ідзе значны прыток насельніцтва. Для ўсіх абласцей рэспублікі характэрны дадатны для гарадской і адмоўны для сельскай мясцовасці міграцыйны баланс. У 1980-я г. найбольш высокая інтэнсіўнасць адмоўнага сальда назіралася ў Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абл. Індустрыялізацыя, урбанізацыя вёскі ўзмацняюць рухомасць сельскага насельніцтва. Кожны чацвёрты вясковец жыве ў месцы пастаяннага жыхарства не з дня нараджэння, г. зн. ён мігрант. У большасці выпадкаў гэта вынік абмену паміж сельскімі мясцовасцямі Беларусі. Намячаецца і працэс міграцыі з гарадоў у буйныя вёскі з развітымі аграпрамысловым комплексам і сацыяльна-культурнай інфраструктурай. Развіваецца маятнікавая міграцыя. За 1965—75 удзельная вага маятнікавых мігрантаў у сельскім насельніцтве БССР падвоілася і склала 6,6 %. Важнай для Беларусі з'яўляецца праблема рэгулявання міграцыйных працэсаў, асабліва ўнутрырэспубліканскіх з вёсак у гарады, аптымізацыя маятнікавых паездак, кіраванне адаптацыйнымі працэсамі.

*Г. І. Каспяровіч.*

**«МІКІ́ТА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Найбольш тыповы варыянт танца апісаў Е. Раманаў, калі два хлопцы, узяўшыся за процілеглыя канцы палкі, пад музыку, у такт, то адну, то другую нагу спрытна перакідваюць над палкай, быццам бы пералазяць цераз яе. Гэты танец даволі ўтомны і патрабуе спрыту. Дзе-ніdзе танцоры пераскоквалі праз палку, прыгаворваючы: «Мікіта,

ці то ты? Мікіта, ці то ты? — Не я то, мой тата, не я то, мой тата». У Брэсцкай вобл. танцор браў палку (часта качаргу) за адзін канец, а другі апускаў на падлогу і, прыпяваючы, скакаў цераз яе туды і назад, а потым танцаваў вакол качаргі імправізаваны танец. Часам на падлогу клалі тры паралельныя палкі, часам дзве накрыж і скакалі, танцавалі над імі, імкнучыся не закрануць іх. Выконваецца танец часцей за ўсё пад прыпеўкі:

За горадам вецер вее,
Там Мікіта жыта сее.
Мікіта, Мікіта,
Шуба Каіпам сашыта.

Распаўсюджаны па ўсёй Беларусі.
*Ю. М. Чурко.*



«Мікіта». Выконваюць жыхары вёскі Валовічы Ашмянскага раёна.

**МІКО́ЛА**, старадаўняе каляндарнаабрадавае свята. Вядомы два М.: веснавы, або цёплы (святкавалася 9 мая с. ст.) і зімовы (6 снежня с. ст.), т. зв. мікольшчына. Паводле нар. вераванняў, М. выступае заступнікам земляроба, клапоціцца пра ўраджай. Ён ходзіць па лясах, аглядае пасевы, напраўляе іх пасля зімы: «дзе вымакла — там падсушыць, дзе высахла — там падмочыць». На веснавога М. ўпершыню пасля зімы выводзілі коней на начлег. Пры гэтым начлежнікі ладзілі балёк і рабілі розныя магічныя захады, накіраваныя на забеспячэнне конскага статку ад псавання. Пастухам-начлежнікам належала ўсю ноч з 8-га на 9-е мая не спаць, пільнаваць, каб злыя сілы (ведзьмакі) не ўчынілі коням якой-небудзь шкоды. Лічылася, калі на М. жывёла наесца ў полі дасыта, то травы хопіць ёй і на ўсё лета. У старажытнасці напярэдадні веснавога М. адзначаўся прысвятак Міколін бацька. Царква прымеркавала да старажытнай, земляробчай у сваёй аснове ўрачыстасці, свята ў гонар Міколы-цудатворца.
*А. С. Ліс.*

**МІКСА́ЦЫЯ** (ад англ. mix змешваць) у этнаграфіі, фарміраванне новай этнічнай супольнасці ў выніку зліцця некалькіх генетычна няродных этнічных утварэнняў аднолькавай расавай прыналежнасці; від аб'яднальных *этнічных працэсаў*. Этнас, які ўзнікае, не з'яўляецца прамым працягам ні адной з кантактуючых этнічных груп. М. цесна звязана з міграцыямі і часцей адбываецца ў працэсе фарміравання раннефеадальных народнасцей (напр., балгар у выніку змешвання цюркскіх і славянскіх этнічных груп).
*П. У. Церашковіч.*

**МІКУ́ЛІЧ** Аляксей Ігнатавіч (н. 19.12. 1934, в. Жарабковічы Ляхавіцкага р-на), беларускі савецкі антраполаг. Канд. біялагічных навук (1972). Чл. КПСС з 1966. Скончыў Мінскі медыцынскі ін-т (1963). У 1963—66 працаваў інспектарам-урачом Мін-ва сацыяльнага забеспячэння БССР, з 1969 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1974 старшы навуковы супрацоўнік). Вывучае асноўныя заканамернасці зменлівасці антрапагенетычных тыпаў і генетыка-дэмаграфічных працэсаў сярод насельніцтва БССР і сумежных тэрыторый у залежнасці ад экалагічных умоў жыцця і працы. Выяўлены геаграфічна накіраваныя паказчыкі ў параметрах спадчынных прыкмет, якія часта супадаюць або з этнаграфічным, або з геахімічным раяніраваннем рэспублікі. Сааўтар манаграфій «Нарысы па антрапалогіі Беларусі» (1976), «Антрапалогія Беларускага Палесся» (1978), «Біялагічнае і сацыяльнае ў фарміраванні антрапалагічных асаблівасцей» (1981), «Спадчынныя і сацыяльна-гігіенічныя фактары даўгалецця» (1986).

*Тв.:* Наша генетическая память: Современные аспекты антропогенетики. Мн., 1987; Геногеография сельского населения Белоруссии. Мн., 1989. *В. С. Семенякоў.*

**МІЛАГРА́ДСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура плямён, якія ў 7—3 ст. да н. э. жылі ў сярэднім і верхнім Падняпроўі (тэр. сучасных Гомельскай, Магілёўскай, У Брэсцкай, Пд Мінскай абл., Пн Украіны). Назва паходзіць ад гарадзішча каля в. Мілаград Рэчыцкага р-на. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, паляваннем, дапаможнымі промысламі. Асноўным тыпам пасяленняў плямён М. к. былі *гарадзішчы*. Ва ўсх. частцы арэала, у міжрэччы Дняпра і Сожа, пераважалі ўмацаваныя паселішчы, размешчаныя на мысах рэк, у зах. частцы, на Палессі, гарадзішчы будаваліся ў забалочаных, нізінных месцах і былі ўмацаваны драўляна-землянымі абарончымі збудаваннямі з усіх бакоў. Неўмацаваныя пасёлкі — селішчы — вядомы амаль на ўсёй тэр. культуры, але значна радзей, чым гарадзішчы. Пахавальныя помнікі — курганныя і бескурганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупапалажэння і трупаспалення. Асноўны тып жылля — наземныя або злёгку заглыбленыя ў грунт дамы плошчай 12—16 м$^2$. Яны былі, як правіла, прамавугольныя ў плане, мелі слупавую канструкцыю, у цэнтры пабудоў размяшчаліся слупы, якія служылі адной з апор перакрыцця страхі. Характэрная асаблівасць жытлаў М. к.— наяўнасць выступу ў адной са сцен або вуглоў. Адкрытыя агнішчы размяшчаліся ў круглых або авальных ямах паміж цэнтральным слупам і сцянкай. Для гаспадарчых мэт выкарыстоўваліся пабудовы тыпу хлявоў і ямыпограбы. Насельніцтва выраблялa гаршкі з прамым адагнутым вонкі венчыкам і яйца- і шарападобным тулавам, а таксама паўсферычныя пасудзіны без вылучанага венчыка. Частка керамікі ўпрыгожана ямкавымі або пазногцевымі ўціскамі, нанесенымі па венчыку або шыйцы, радзей — у верхняй частцы тулава. Часам уціскані згрупаваны па 2—3 або складаюць трохвугольныя фігуры. Былі пашыраны разнастайныя бронзавыя і жалезныя бранзалеты, шыйныя грыўні, скроневыя кольцы і пярсцёнкі, завушніцы, падвескі, фібулы, посаха- і цвікападобныя шпількі, пранізкі, бляшкі, шкляныя, халцэдонавыя, бурштынавыя, гліняныя, бронзавыя пацеркі, гліняныя фігуркі жывёл.
*А. А. Егарэйчанка.*

**МІЛЮЧЭ́НКАЎ** Сяргей Аляксеевіч (н. 5.11.1949, Мінск), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. навук (1982). Чл. КПСС з 1982. Скончыў БДУ (1973). Працаваў у філіяле Дзярж. музея БССР (Заслаўе, 1975—77), з 1977 у ІМЭФ АН БССР (з 1984 старшы навуковы супрацоўнік). Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру, промыслы і рамёст-

вы беларусаў, музейныя калекцыі, сучасную працоўную абраднасць, грамадскі побыт насельніцтва Беларусі. Аўтар манаграфіі «Беларускае народнае ганчарства» (1984), саваўтар прац «Помнікі этнаграфіі» (1981), «Промыслы і рамёствы Беларусі» (1984). У саваўтарстве з І. П. Загрышавым выдаў брашуры «Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік» (1982), «Заслаўе — горад старажытны» (1986), альбомы «Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік» (1983), «Дзяржаўны музей БССР» (1986). Адзін з аўтараў экспазіцыі Заслаўскага музея рамёстваў і нар. промыслаў, удзельнічаў у распрацоўцы навукова-метадычных прынцыпаў стварэння Бел. дзярж. музея нар. архітэктуры і побыту. *Л. А. Суднік.*

**МІНСКАЯ КЕРА́МІКА,** традыцыйныя вырабы мясцовых ганчароў 11—18 ст.: кухонны, сталовы, гаспадарчы посуд, дзіцячыя цацкі-свістулькі, курыльныя люлькі, падсвечнікі і інш. У 11—15 ст. вырабляліся гаршкі з накрыўкамі, патэльні, збаны, якія фармавалі з мясцовых чырвоных глін на ручным ганчарным крузе прыёмамі спіральнага або кальцавога налепаў. У гліняную масу дадавалі буйназярністы пясок, жарству, шамот. Вырабы ўпрыгожвалі сціплым геаметрычным узорам у выглядзе хвалі, зігзага, насечкі, ямкі або лінейнага рыфлення (узор наносілі вострымі прадметамі пасля заканчэння фармоўкі). Некаторыя вырабы гартавалі. У 16—17 ст. асартымент пашырыўся: выраблялі кафлю, дахоўку, цэглу і пліткі для падлогі, чорназадымлены і гартаваны посуд (макотры, міскі, талеркі, збаны, кубкі); посуд фармавалі на нажным ганчарным крузе тэхнікай выцягвання. У аздабленні ўжывалі пераважна зялёную і жоўта-карычневую паліву. Часта перад глазураваннем посуд грунтавалі ангобам. Больш разнастайнай стала арнаментыка (пераважалі геаметрычныя і раслінныя ўзоры), тэхніка нанясення арнаменту: разам з графічным узорам існавала падглазурная размалёўка ангобам на кубках, збанах, талерках, місках. У дэкоры выкарыстоўвалі штампікі, пуансоны, зубчатыя кольцы. Некаторыя вырабы аздаблялі пакладным дэкорам у выглядзе каймы, карніза, разеткі. Вырабы 2-й пал. 18 ст. больш простыя па форме і аздабленню (адсутнічае пакладны дэкор, штампаваны ўзор); выкарыстоўвалі глухія эмалі, пашырана размалёўка фарбамі на эмалях. *В. Е. Собаль, У. В. Угрыновіч.*

**«МІ́НСКАЯ СТАРИНА́»,** зборнік дакументаў, артыкулаў і дакладаў па гісторыі, этнаграфіі і археалогіі Беларусі. Выдадзены ў 1909—13 у 4 выпусках *Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэтам.* Большасць матэрыялаў прысвечана гісторыі праваслаўнай царквы і духавенства. У зборніку змешчаны таксама дадзеныя па сацыяльна-эканам. развіцці Мінскай губ., песні, казкі, паданні бел. народа, паведамленні пра вынікі археал. раскопак. У вып. 4 «Трайчанскі архіў» апісанне дакументаў (з 1517 да 1747) архіва Слуцкага Троіцкага манастыра, дзе ёсць звесткі пра побыт насельніцтва Случчыны, слуцкія праваслаўныя брацтвы.

**МІ́НСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў Маладзечне 8.7.1959 як Маладзечанскі абласны краязнаўчы музей, з 1960 М. а. к. м. Адкрыты 26.4.1964. Мае 7 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 338 м²). 33,5 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988). Аддзелы: гісторыі дасав. і сав. перыядаў, прыроды. У экспазіцыі матэрыялы з археал. раскопак у Мінскай вобл. (скроневыя ўпрыгожанні і галава глінянай статуэткі 4 ст. да н. э.— 2 ст. н. э., стараж. прылады працы і побыту сялян, калекцыі манет 16 ст., кафля 17—18 ст.), дакументы і матэрыялы пра нац.-вызв. рух, Рэвалюцыю 1905—07, Кастрычніцкую рэвалюцыю, грамадзянскую і Вял. Айч. войны, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў краі. Зберагаюцца калекцыі муз. інструментаў, бел. нар. адзення, ткацтва, у т. л. залататканых слуцкіх паясоў, вышыўкі, прадметаў побыту сялян канца 19—20 ст. з в. Малінаўшчына Маладзечанскага р-на, рэчаў з саломкі з в. Рэчкі Вілейскага р-на (шкатулкі, панарама сялянскага двара і інш.), лялек Маладзечанскай фабрыкі маст. вырабаў, івянецкай керамікі, барысаўскага шкла і інш. *Г. А. Каханоўскі.*



Мінскі абласны краязнаўчы музей. Фрагмент экспазіцыі.

**МІ́НСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Створаны ў 1908 пры *Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэце.* Меў 1363 экспанаты, сярод іх рэчы рэлігійнага характару, этнагр. матэрыялы, тэксты песень, паданняў і казак, манеты, рукапісныя кнігі, каля 1900 тамоў кніг і інш. Зберагаўся архіў Слуцкага Троіцкага манастыра. У пач. 1-й сусветнай вайны экспанаты вывезены ў Разань, у 1922 вернуты ў Мінск і перададзены ў Бел. дзярж. музей. Некаторыя рэчы, у т. л. рукапісы, захоўваюцца ў *Дзяржаўным музеі Беларускай ССР.* *Л. Дз. Клок.*

**МІ́НСКІ ЦАРКО́ЎНЫ ГІСТО́РЫКА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т.** Існаваў з лютага 1908 да 1-й сусветнай вайны. Займаўся зборам і вывучэннем старажытнасцей на тэр. Мінскай губ. Старшыні М. М. Былоў, А. К. Снітка (з 1909). Даследаваў гіст. помнікі, фальклор, апісваў царкоўныя і манастырскія архівы, збіраў і зберагаў старадаўнія рэчы. Выдаў зб. *«Минская старина»* (1909—13), даведнік «Рукапісны аддзел старадрукаваных кніг бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта. 1909» (вып. 1). Пры камітэце існаваў *Мінскі царкоўна-археалагічны музей.*

**«МІ́НСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»,** афіцыйная газета. Выдавалася ў 1838—1917 на рус. мове Мінскім губернскім праўленнем. Мела афіцыйную (урадавыя ўказы, паведамленні, аб'явы і распараджэнні губернскіх улад) і не-

афіцыйную часткі з дадаткамі да іх. У неафіцыйнай частцы (выходзіла ў 1838—92 і 1911) змяшчаліся гістарычныя, гісторыка-краязнаўчыя, фальклорныя, этнагр., статыстычныя і інш. матэрыялы. Першыя этнагр. публікацыі змешчаны ў 1861—62. Частка з іх была выклікана абвастрэннем сацыяльна-паліт. і нац. супярэчнасцей у краі і насіла тэндэнцыйны характар. Надрукаваны артыкулы «Вясельны абрад у вёсках Навагрудскага павета» М. А. Дзмітрыева (1861, № 15—16), «Аб забабонах нашага простага люду ў славянскіх прыходах» (1861, № 11—12, аўтар невядомы). У 1865—69 колькасць публікацый значна павялічылася. Некаторыя з іх захоўвалі тэндэнцыйны характар («Погляд рускага на звычай ставіць прыдарожныя крыжы ў Заходняй Расіі» У. Руміна, 1868, № 31). Тэматычна артыкулы былі арыентаваны на апісанне традыцыйнай абраднасці [«Вясельныя звычаі і абрады простага люду ў Барысаўскім павеце» Шумовіча, 1865, № 22—29, 35—37, 39, 41—43; «Апісанне пахаванняў і дзядоў у Навагрудскім павеце Мінскай губерні» Дзмітрыева, 1867, № 9; «Абрады пры пахаванні ў Ігуменскім павеце, вёсцы Пырашыве» П. Васюковіча, 1867, № 12; «Нарысы народных святкаванняў і маленняў на Палессі» У. Сакалова, 1869, № 25; «Вясельныя абрады сялян Мінскага павета» М. Рубяроўскага, 1869, № 31: «Куст, абраднае свята ў пінскіх сялян», 1866, № 31 і «Прасвяты камень» (пра пакланенне гэтаму каменю, 1868, № 50) (аўтары невядомы)], песеннага фальклору («Пра духоўныя простанародныя песні Паўночна-Заходняга краю» Р. І. Кулжынскага, 1868, № 35; «Беларускія песні, сабраныя ў Барысаўскім павеце» Дз. Г. Булгакоўскага, 1868, № 23), нар. этыкі («Нарысы нораваў Барысаўскага павета» Сакалова, 1869, № 2; «Аб маральным побыце сялян Мазырскага павета» С-цова К., 1869, № 34). Шэраг артыкулаў насіў нарысавы характар [«З жыцця ў Пінскім павеце» А. Паўлоўскага, 1866, № 25; «Ліст з Палесся», 1869, № 32 і «Палессе. Паездка на возера Князь-жыд», 1869, № 35—36 Сакалова; невядомых аўтараў: «Нататкі пра гор. Барысаў і яго павет» (крыптанім Н. К., 1866, № 23—24), «Сёе-тое пра народнае жыццё» Ст-ова, 1868, № 26]. Шмат звестак пра духоўную і матэрыяльную культуру палешукоў у артыкуле невядомага аўтара «Нарысы Беларускага Палесся», 1868, № 21, 33, 36, 39, 47; 1869, № 10, 12—14. Найбольш прадукцыйны перыяд публікацый этнагр. матэрыялаў — 1876—79, калі для супрацоўніцтва ў газеце былі прыцягнуты сілы мясцовай інтэлігенцыі. Надрукаваны артыкулы А. Я. Васільевай «Вясельныя абрады ў раёне Грабаўскай воласці Мазырскага павета», 1877, № 32—34; «Кароткі нарыс вёскі Грабава Мазырскага павета», 1877, № 35, 37, 39, 41, 43, 44; «Сялянскія памінкі ў Мазырскім павеце», 1877, № 45; «Князь», ці «Жыд» возера (Легенды)», 1877, № 52; «Калядныя святы ў сялян Мазырскага павета», 1878, № 5; «Нататка пра абшчыннае земляробства ў сялян Мінскай губерні», 1878, № 9; «Веснавыя песні і абрады ў вёсках Мазырскага павета», 1878, № 50; «Легенды і павер'і ў Мінскай губерні», 1879, № 9—11; «Нататка пра побыт сялян Мазырскага павета», 1879, № 17—18; «Вёска Бяседкі Мазырскага павета», 1879, № 29, 31; І. Сцяпуржынскага «Брацкая свечка (этнаграфічны нарыс)», 1876, № 46; М. Юхневіча «Вясельныя абрады ў Мароцкім прыходзе Мазырскага павета», 1877, № 23, 24, 26. Цікавыя звесткі пра жыллё, адзенне, ежу, сямейны побыт, абрады і вераванні ў артыкуле «Тураў і Тураўшына» Б. Л. Тура (1877, № 4—9). Пра пранікненне ў этнаграфію матэрыялістычных і атэістычных ідэй сведчыць праца М. Ласіеўскага «Сонца і месяц у народных легендах і замовах Паўночна-Заходняга краю» (1878, № 8, 13—15, 17), у якой на канкрэтным міфалагічным і фальклорным матэрыяле аналізуецца аснова калядных і купальскіх святкаванняў. У 1889—92 колькасць этнагр. матэрыялаў была адносна невялікай. Побач са змястоўнымі працамі А. І. Слупскага («Кароткі нарыс грамадскага побыту Беларусі паогул і Мінска ў прыватнасці», 1891, № 60) і М. В. Доўнар-Запольскага [«Археалагічнае даследаванне Мінскай губерні» (аб значэнні археалагічных работ для этнаграфіі, 1892, № 36)] публікаваліся матэрыялы рэакцыйнага зместу, якія прыніжалі чалавечую годнасць карэннага насельніцтва [«Аб інтэлектуальным развіцці палешукоў (жыхароў Палесся)», 1891, № 3—6]. Этнагр. каштоўнасць маюць артыкулы невядомых аўтараў: «Пра музычныя схільнасці смальнян» (1889, № 64), «Погляд нашых сялян на хваробы наогул і на трасцу ў прыватнасці» (1889, № 95), «Народныя песні» Т—ч В. Л. (1891, № 5, 10, 15), «Народныя песні, запісаныя ў в. Бухлічы Пінскага павета і в. Рубель Мазырскага павета. Запісаў А. Ф. С.» (1891, № 21), «Народныя песні (запісаны ў Пінскім павеце)» (1891, № 25). Супрацоўнікі рэдакцыі «М. г. в.» удзельнічалі ў арганізацыі Маскоўскай антрапалагічнай выстаўкі ў 1879, на якую даслалі рукапіс 100 песень і некалькіх артыкулаў (1879, № 18—25). *П. У. Церашковіч.*

**«МІ́НСКІ ЛІСТО́К»**, неафіцыйная, першая на Беларусі прыватная грамадска-палітычная і літаратурная газета ліберальна-асветніцкага кірунку. Выходзіла на рус. мове ў Мінску 2—3 разы на тыдзень з 2(14).4.1886 да 31. 10(13.11). 1902. Значную частку этнагр. публікацый складалі аналітычныя артыкулы, прысвечаныя праблемам вывучэння карэннага насельніцтва: «Сватаўство і дружына жаніха ў беларускім вяселлі» (1892, № 57), «Сонейка і месяц у беларускай вясельнай паэзіі» (1894, № 80) М. В. Доўнар-Запольскага; «Педагагічныя погляды беларускага народа» (1886, № 61), «Нарыс становішча жанчыны ў сялянскім асяроддзі беларускага краю» (1886, № 39), «Перажыткі ў светапоглядзе беларусаў» (1894, № 76) А. Я. Багдановіча; «Пра крыніцы мясцовага звычаёвага права» Д. Мейчыка (1886, № 17, 18); палемічны артыкул невядомага аўтара «Беларуская гаворка або беларуская мова?» (крыптанім Б-скі К., 1893, № 20). Гістарыяграфічным пытанням прысвечаны артыкулы М. А. Янчука «Бібліяграфічная нататка» (Шэйн П. В. Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю. Т. 1, ч. 1, 1887, № 66), «Нататка пра кн. «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю». Т. 1. ч. 2» (1890, № 82), «Бібліяграфічная нататка» (Раманаў Е.Р. Беларускі зборнік. Вып. 1—2, 1887, № 32), «Адам Карлавіч Кіркор (некралог з «Газеты Гатцука»)» (1887, № 55), невядомых аўтараў: «Матывы беларускіх песень. Нататкі наконт «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава. Вып. 1 і 2» (крыптанім Г—л С. М., 1886, № 31), «Нататка пра 35-гадовы юбілей П. В. Шэйна» (1894, № 85). Шэраг матэрыялаў меў характар падарожных нататак («З навуковай вандроўкі на Беларусь» Янчука, 1886, № 71, 73, 1887, № 2, 3, 6, 7, 9—11, 14, 16, 19, 21, 70, 89; «Вандроўка на Свіцязь» А. І. Слупскага, 1892, № 55; «Вандроўка па Беларусі» Доўнар-Запольскага, 1898, № 8). Значная колькасць артыкулаў прысвечана апісанню святаў і абрадаў (невядомыя аўтары: «Ігрышча», крыптанім Ш—о М., 1894, № 84; «Сёмуха» 1886, № 18; «Грамніцы», 1893, № 13; «Радаўніца», 1894, № 29), асобным творам фальклору («З вобласці замоў» Я. А. Ляцкага, 1892, № 95; «Легенда пра заснаванне Мінска» Слупскага, 1893, № 56; невядомых аўтараў: «Легенда пра тытунёвае зелле», 1893, № 85; «Святочныя гутаркі», 1891, № 103), сялянскаму побыту [«Альхавецкія лісты» Ляцкага, 1892, № 47, 68; «Па правінцыі. Старонка з галіны мясцовага звычаёвага права» І. Марцінкевіча, 1892, № 54; невядомых аўтараў: «Трасца. Бытавы нарыс» (псеўданім Паўночна-Заходні бард, 1894, № 74); «Наш край (эканамічны побыт сялян, каўтун)», 1892, № 17; «Наш край. Нататка пра адносіны насельніцтва да этнографаў», 1894, № 81, 97]. *П. У. Церашковіч.*

**МІНЬКО́** Леанід Іосіфавіч (н. 15. 10. 1926, в. Скарабагатаўшчына Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.), беларускі савецкі этнограф. Кандыдат гіст. навук (1965). Чл. КПСС з 1975. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1955). У 1955—59 працаваў у Засульскай СШ Стаўбцоўскага р-на. З 1963 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1968 старшы навуковы супрацоўнік). Даследуе побыт і духоўную культуру беларусаў. Аўтар

кніг «Народная медыцына Беларусі» (1969), «Знахарства» (1971), «Забабоны і прыметы» (1975), сааўтар кніг «Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў» (1974), «Змены ў побыце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі» (1976), «Пытанні этнаграфіі і фалькларыстыкі» і «Помнікі народнай архітэктуры і побыту Беларусі» (1979), «Грамадскі, сямейны побыт і духоўная культура насельніцтва Палесся» (1987). *В. С. Семянкоў.*

**МІ́РСКАЯ КЕРА́МІКА**, традыцыйныя ганчарныя вырабы майстроў з г. п. Мір Карэліцкага р-на. Як цэнтр ганчарнага рамяства, Мір вядомы з 15 ст. Выраблялі на ганчарным крузе гаршковую кафлю, якая ў канцы 15 ст. трансфармавалася ў місачную. У канцы 16 ст. пашырэнне набыла плоская тэракотавая і паліваная аднатонная (звычайна зялёная) і паліхромная кафля з рэльефнымі малюнкамі геральдычнага, геаметрычнага і расліннага характару. Адначасова развівалася вытворчасць бытавога керамічнага посуду з ангобнай размалёўкай і штампаваным арнаментам (з 17 ст. ў Міры існаваў ганчарны цэх). Асаблівае пашырэнне набыло ганчарства ў канцы 19 — 1-й пал. 20 ст. Тут выраблялі чорнаглянцаваны, гартаваны (рабы, абвараны), светлагліняныя паліваны гаспадарчы посуд (гаршкі, глякі, збанкі, міскі, слоікі, цёрлы, спарышы, бабачнікі), утылітарна-мастацкія вырабы (вазы, вазоны, попельніцы з ляпнінай, фігурныя пасудзіны ў выглядзе львоў, мядзведзяў, бараноў), дзіцячыя цацкі, гладкую аднатонную (белую, карычневую) ці з малюнкам у стылі мадэрн кафлю. Посуд вызначаецца простымі выразнымі формамі, падкрэсленымі палівай зялёнага ці карычневага колеру, гладкімі і хвалістымі паяскамі белага ангобу на плечуках. Чорнаглянцаваныя вырабы аздаблялі дэкорам у выглядзе рамбічнай сеткі. З 1980-х г. промысел не існуе. Калекцыі М. к. 1970—80-х г. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР і інш. *Я. М. Сахута.*

**МІ́СКА**, традыцыйны ганчарны або такарны выраб; гліняная ці драўляная глыбокая, звычайна круглая пасудзіна для ежы. Адна з старажытных форм керамічнага посуду, вядома на тэр. Беларусі з бронзавага веку. Паводле цэхавых статутаў 17 ст. (Мінск, Полацк) была адным з прадметаў, які павінен быў вырабіць чаляднік у час экзамену на званне майстра ганчарнага рамяства. З канца 19 ст. ганчарныя М. былі больш пашыраны, чым драўляныя. Выраблялі іх з высокапластычнай гліны паліваныя, чорназадымленыя, радзей проста абпаленыя. Аздаблялі глянцаваным арнаментам і ангобнай размалёўкай геаметрычнага, радзей расліннага характару. Пашыранымі былі рабрыстыя М., розныя па форме венчыка і профілю сценак. Выраблялі і з непрафіляванымі (роўнымі ці ледзь пукатымі) бакамі або з гафрыраваным (карбаваным) верхнім краем. Памеры розныя — ад маленькіх дзіцячых да вялікіх на 10—12 л. У побыце адну і тую ж М. выкарыстоўвалі для першай і другой страў. Часта ў ёй ставілі на стол ежу на ўсю сям'ю. Пасудзіны вялікіх памераў ужываліся і для іншых гаспадарчых мэт. Для большай трываласці гліняныя М. сцягвалі ўверсе і ўнізе тонкімі драўлянымі або металічнымі (з дроту) абручамі, а на Пн Беларусі аплятаць бярostай.

*С. А. Мілючэнкаў.*

**«МІТУ́СЬ»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Магчыма, танец атрымаў сваю назву з-за своеасаблівых рухаў, мітуслівых пераскокаў выканаўцаў адзін да другога і назад (нагадваюць па-дэ-баск). «М.» носіць вясёлы, часам жартоўны характар. Выконваецца любой колькасцю пар. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у некалькіх раёнах Брэсцкай вобласці. *А. Л. Варламаў.*



Міскі.



Мірская кераміка.

**МІФАЛАГІ́ЧНАЯ ШКО́ЛА**, кірунак у фалькларыстыцы і этнаграфіі 19 ст., прыхільнікі якога надавалі міфалогіі універсальнае значэнне як крыніцы культуры і прыцягвалі яе да тлумачэння паходжання і сэнсу фальклорных і этнагр. з'яў. Асн. палажэнні М. ш. распрацавалі браты Я. і В. Грым, А. Кун (Германія), М. Мюлер (Англія). Яны разглядалі вераванні, паданні, песні, казкі, легенды і інш. як рэшткі старажытнага, т. зв. міфалагічнага светапогляду, які нібыта быў заснаваны на ўвасабленні нябесных з'яў — сонца, месяца, хмар, грому і інш. Гэтыя ўвасабленні, на іх погляд, былі багамі, якім пакланяліся. Меркавалі, што з цягам часу такая рэлігійна-міфалагічная сістэма пачала разбурацца і ранейшыя багі ператварыліся ў казачных персанажаў (жывёл, людзей і інш.). На думку вучоных, рэшткі міфалагічнага светапогляду захаваліся ў нар. звычаях і абрадах, сутнасць іх часта тлумачылі памылкова. Асновай нар. светапогляду М. ш. лічыла міф. Прыхільнікамі М. ш. ў Расіі былі А. М. Афанасьеў, Ф. І. Буслаеў, А. Ф. Мілер, А. А. Патабня і інш. На Беларусі была пануючым кірункам 1-й пал. і ў 60—70-я г. 19 ст. З пазіцый М. ш. напісаны этнагр. працы П. М. Шпілеўскага, які адмаўляў эвалюцыю бел. нар. культуры. Тыя ж погляды падзяляў і А. Кіркор. П. В. Шэйн на аснове прынцыпаў М. ш. склаў «Праграму для збірання помнікаў народнай творчасці» (выд. 1867), зб. «Беларускія народныя песні» (1874). У зб. «Беларускія песні»

(1871) А. Бяссонаў частку страраж. бел. звычаяў і абрадаў памылкова выводзіў з хрысціянскай міфалогіі, тлумачыў іх яе матывамі. Метадалогія і высновы М. ш., якія заснаваны на ідэалізацыі міфалогіі і перабольшванні яе ролі ў гісторыі мастацтва, падвяргаліся крытыцы. Аднак М. ш. адыграла важную ролю ў актывізацыі збірання і вывучэння фальклору, этнагр. матэрыялаў, росце цікавасці да нар. культуры і яе творца — народа, абуджэнні нац. самасвядомасці. *М. Ф. Піліпенка.*

**МІФАЛАГІЧНЫЯ ВО́БРАЗЫ** ў б е л а р у с к і м ф а л ь к л о р ы. Суадносіны паміж фальклорам і міфалогіяй як гістарычнымі формамі духоўнай культуры — важная праблема этнаграфіі і фалькларыстыкі. Прадстаўнік *міфалагічнай школы* А. М. Афанасьеў імкнуўся выявіць міфалагічныя адпаведнікі або архетыпы сюжэтаў, вобразаў, матываў, мастацкіх сродкаў усіх жанраў слав. фальклору і звязаных з ім абрадаў, а самую міфалогію тлумачыў з пазіцый натуралістычнай і сімвалічнай тэорый, паводле якіх *міф* — гэта паэтычнае ўвасабленне прыродных ці касмічных з'яў і па сваёй сутнасці з'яўляецца першабытнай формай мастацкай творчасці. Пазней, у пач. 20 ст., заснавальнік «псіхалагічнай» тэорыі міфа В. Вунт бачыў у міфатворчасці найважнейшую функцыю фантазіі, фальклору, паэзіі, інш. відаў мастацтва. Прадстаўнікі этналагічнага кірунку ў культуралогіі Л. Леві-Бруль, Дж. Фрэзер і інш. процiпаставілі «пралагічную» сутнасць міфа сучаснаму навуковаму і мастацкаму пазнанню. Разам з тым яны перанеслі ўвагу даследчыкаў з вобразнай сістэмы міфалогіі на тыя інстытуты стараж. грамадства і адпаведныя ім абрады, якія парадзілі міфы. На аснове марксісцка-ленінскай тэорыі адлюстравання ўзнік сацыяльна-гістарычны кірунак у сав. фалькларыстыцы, прадстаўлены фундаментальнымі даследаваннямі У. Я. Пропа і яго паслядоўнікаў. Сваю задачу Проп бачыў у тым, каб раскрыць сацыяльна-гіст. і светапоглядныя вытокі фальклорных сюжэтаў, эпізодаў і вобразаў чарадзейнай казкі. Сацыялагічны метад у Пропа арганічна дапаўняўся сістэмна-структурным і эстэтычным аналізам нар. творчасці. Пазнейшыя эпігоны гэтага кірунку спрасцілі яго, абмяжавалі павярхоўным аналізам сацыяльнай асновы міфалогіі і фальклору. Важкі ўклад у пераадоленне вульгарнага сацыялагізму ў фалькларыстыцы ўнёс М. М. Бахцін, які раскрыў эстэтычную спецыфіку нар. творчасці, яе своеасаблівы метад «гратэскавага рэалізму». Эстэтычная тэорыя фальклору дае магчымасць выявіць істотнае адрозненне паміж міфалагічнай топікай (наборам сюжэтаў) і яе фальклорнымі адпаведнікамі, якія ў працэсе мастацкай эвалюцыі страцілі сваю міфалагічную сутнасць, пераўвасобіліся ў мастацкія тропы і інш. сродкі эстэтычнага выяўлення і духоўнага асэнсавання быцця. Тэарэтычныя асновы міфалогіі і ранніх форм рэлігіі даследавалі С. А. Токараў, Е. М. Мелятынскі і інш. А. Ф. Лосеў грунтоўна прааналізаваў сімвалічнае значэнне міфаў у антычным мастацтве. У працах Ю. М. Сакалова, М. П. Андрэева, М. В. Новікава, Э. В. Памяранцавай раскрыты асобныя міфалагічныя вобразы і матывы ў рус. фальклоры.



**«Мітусь».** Выконваюць жыхаркі вёскі Ліпаў Нараўлянскага раёна.

Міфалагічныя вобразы і матывы багата прадстаўлены ў бел. фальклоры (гл. *Народная паэтычная творчасць*). Іх колькасць і эстэтычныя функцыі неаднолькавыя ў розных відах і жанрах нар. творчасці: больш за ўсё ў чарадзейных казках, казках пра жывёл, легендах і паданнях, шмат у баладах, абрадавых песнях, загадках і найменш у сацыяльна-бытавых казках, прыказках, жартах і гумарэсках. Спецыфічна казачным пераўтварэннем міфалагічных вобразаў з'яўляецца іх карнавалізацыя — перавод узнёсла-велічных, сур'ёзных і страшных сюжэтаў і матываў у «матэрыяльна-цялесны ніз» або ў камічна-бытавы план. Фальклорная травестацыя міфалагічных уяўленняў закранае нават універсальныя формы быцця — прастору і час. У сістэме міфалагічнага светапогляду прастора ўяўляецца вонкавай рэалізацыяй багатварца, жывым космасам, які мае свой верх (неба), сярэдні свет (зямлю) і падземнае царства (пекла). У чарадзейнай казцы міфалагічная прастора травестуецца, падпарадкоўваецца людской волі. Яе героі пранікаюць ва ўсе сферы прасторы, у т. л. ў «верхнюю» і «ніжнюю», а, вяртаючыся адтуль на зямлю, «згортваюць» медныя, сярэбраныя і залатыя палацы ў клубочкі ці яйкі, каб пасля зноў вярнуць ім першапачатковы выгляд. Казачнае яйка з'яўляецца тут мастацкай метафарай, якая сімвалізуе універсальную патэнцыю быцця, здольнасць да зараджэння і росту. Міфалагічная прастора звычайна перадаецца казачнікам у камічна-гратэскавай форме, яго героі рыдлёўкай «дакопваюцца» да падземнага царства або па дрэве ці драбінах узнімаюцца на неба, каб пагутарыць там з анёламі, святымі і нават з самім богам. Міфалагічны вобраз незваротнага часу таксама карнавалізуецца ў чарадзейнай казцы: яе героі на дыване-самалёце, у ботах-скараходах, на дзівосным кані ці, зрэшты, на чароўным кіёчку вокамгненна пералятаюць не толькі зямныя, але і касмічныя адлегласці. Казачны час і прастора набылі ўмоўнасць і пластычную падатлівасць, нярэдка зводзяцца да набору пэўных знакаў, сімвалаў і дэкарацый.

Асаблівасцю міфалагічнай канцэпцыі часу з'яўляецца яго «зваротнасць», што найбольш яскрава выявілася ў міфах пра смерць і ўваскрэсенне героя. Матыў адраджэння да новага жыцця — тыповая развязка шматлікіх бел., рускіх і інш. славянскіх чарадзейных казак. Гэтая таямнічая міфічная падзея страчвае ў казцы сваю містычную сутнасць, набывае натуральныя формы з пэўнымі гратэскавымі адценнямі. У казцы «Дра-птах» зайздросныя браты забілі даверлівага Іваньку: доўга ляжаў ён, і «разнеслі крукі яго й костачкі па чыстаму полю». Аднойчы іх знайшоў воўк — чарадзейны памочнік забітага героя: «Стаў ён збіраць костачкі, адну к адной прыкладваць», не хапіла толькі аднаго пальца. Узяў воўк лазіну, выстругаў палачку і прыклаў да рукі. Тады дыхнуў на косці, лазіная палачка стала пальцам, а Іванька ўстаў з мёртвых: «Ах,— кажаць,— як я смашна заснуў!»

(Чарадзейныя казкі. Ч. 1. Мн., 1973, № 62). Найчасцей забіты герой адраджаецца да жыцця пасля таго, як крумкач (варыянты: змейка, чарадзейная кабылка і інш. міфічныя жывёлы ці птушкі) прыносіць «жывую і гаючую ваду» і апырсквае ёю мёртвага ці яго астанкі. У гратэскавым пераасэнсаванні ўвайшоў у бел. чарадзейную казку біблейскі сюжэт «прарок Іона ў жываце кіта» — сімвал смерці і ўваскрашэння. Кінутага ў мора царэвіча праглынула вялікая рыбіна. Вось ён закурыў у яе жываце, расклаў там цяпельца, падсмажыў рыбінага мяса ды сілкуецца. Рыба не вытрымала гарачыні, адхаркнула яго на бераг (там жа, № 52). У казцы «Брат-баранчык» пераасэнсоўваецца біблейскі міф пра ахвярапрынашэнне Аўраама: хлопчык, пабыўшы ў абліччы баранчыка, зноў стаў сынком Ісакам (Раманаў Е. Р. Беларускі зборнік. Вып.3, № 48). Разнавіднасцю казачнага ўваскрашэння з'яўляецца пашыраны ў бел. фальклоры сюжэт амаладжэння, на якое здольны толькі добрыя і высакародныя людзі. Гумарыстычнае перайначванне біблейскага сюжэта пра выратаванне богам шматпакутнага Іова знаходзім у казцы «Круці не круці, а трэба ўмерці», запісанай А. Сержпутоўскім. Шматлікія казачныя метамарфозы (пературарэнні герояў, часцей гераінь у жывёлы, птушкі, дрэвы, кветкі, нават фрагменты ландшафту) сімвалізуюць тоеснасць чалавека самому сабе, цэласнасць яго асобы ў зменлівым, «цякучым» свеце. На метамарфозах грунтуецца шырока вядомы казачны сюжэт пра царэўну-жабу. У бел. казках і песнях часта сустракаецца вобраз дзяўчыны-птушкі: «Абярнулася падчарка шэрай птушкай, запела і паляцела» (Чарадзейныя казкі. Ч. 2, 1978, № 40, 59). З костачак зарэзанага хлопчыка-сіроткі нараджаецца і ўзлятае галубок (там жа, № 65). Казачныя метамарфозы (за выключэннем іх камічнай разнавіднасці — карнавальнага «пераапранання») сімвалізуюць пакутлівы шлях сцвярджэння чалавечай асобы і самапазнання. У шматлікіх песнях баладнага жанру міфалагічны матыў метамарфозы набыў значэнне паэтычнай метафары элегічнага або трагічнага сэнсу. Пакінутая мужам жонка скардзіцца сваёй радні: «Абярнуся, я, малада, шэраю зязюлькай,//Дзеткі мае — салаўямі...» (Балады. Кн. 1. Мн., 1977. С. 133). Брат і сястра, якія не ведалі адно аднаго, ледзь не пажаніліся, а даведаўшыся, сталі «травіцай браткай-сястрыцай». Вялікі цыкл балад апавядае, як сын пайшоў на смерць услед за жонкай, якую загубіла свякроў, і на іх магілках выраслі дуб і бяроза, явар і каліна: «Раслі-раслі — пахіліліся.//Дуб з бярозай сашчапіліся». У шматлікіх бел. легендах і паданнях узнёслыя міфы касмалагічнага, антрапалагічнага і біблейскага зместу максімальна набліжаны да штодзённага побыту сялян, нярэдка яшчэ зніжаюцца, набываюць гульнёвы, па-мастацку займальны змест [«Чортава балота», «Як бог пусціў слонка ў хату», «Чаму жонку сваю Адам назваў Евай», «Адкуль паны», «З чаго ліха на свеце», «Бог, Юрый і Мікола», «Ілья і Пятро» і інш. (Легенды і паданні. Мн., 1983, № 5, 13, 23, 105, 109, 136, 142 і інш.)]. Міф пра стварэнне свету набывае від спаборніцтва паміж богам і нячысцікам: бог плавае на чаўне па бязмежным моры і «сее» ўсё прыгожае і карыснае для чалавека: зямлю, сады, хлеб, вінаград, патрэбных жывёл, птушак і насякомых. А зайздроснік-чорт крадзе ў бога насенне і сее балоты, хмызняк, гнус, выдумляе гарэлку і інш. непатрэбшчыну. Але, урэшце, і «чортавае тварэнне» аказваецца не бескарысным у агульнай гармоніі быцця. Характэрны для слав. міфалогіі вобраз ваўкалака часта сустракаецца ў бел. казках і легендах у дзвюх разнавіднасцях: чарадзея-пярэваратня, здольнага пераўвасабляцца ў ваўка, або яго ахвяры — чалавека, ператворанага помслівым чарадзеем у ваўка ці інш. звера. У папулярных жанрах паданняў, былічак і анекдотаў пашыраны вобразы т. зв. «ніжэйшай міфалогіі» (чорт, або нячысцік, хлеўнік, гуменнік, дамавік, мара, лясун, вадзянік, русалка і інш.).

Разнастайныя варыянты і эпізоды асноўнага сюжэта бел. чарадзейных казак — сутыкненне волата ці асілка (Івана-царэвіча, малодшага брата Івана-дурака, Кабыліната сына, Суччынага сына і інш.) і яго антаганіста (шматгаловага змея, Кашчэя Бессмяротнага, Юды-Анцюды, Бабы Ягі і інш.) грунтуюцца на карнавальнай травестацыі стараж. міфаў пра подзвігі т. зв. «культурнага героя». Шматлікія вобразы антаганіста сімвалізуюць варожыя жыццю сілы, падман, несумленнасць і, урэшце, смерць. Вобраз Бабы Ягі дваісты, амбівалентны: звычайна яна выступае ў ролі выкрывальніцы і пажыральніцы, аднак часам надзяляецца функцыяй дарыльшчыцы і памочніцы героя. Ва ўсіх выпадках яна ўвасабляе смерць сваёй акасцянеласцю, пачварнай гратэскавасцю. У яе вобразе падкрэсліваецца механічнасць («Баба Яга, касцяная нага, нос у столь урос»). У бел. казцы «Пра Івана Дарагана» ёсць абагульнены міфалагічны вобраз смерці: «Жыў Кашчэй Бессмяротны і багатыроў усіх пабіў, і чарадзеяў усіх пагубіў, і ўкраў сонца, і месячка, і зоркі, і стала цёмна людзям» (Чарадзейныя казкі. Ч. 1, № 66). Шматлікія міфічныя пачвары ўвасабляюць бездухоўны пачатак жыцця. Светлыя міфічныя вобразы часта тоесныя з салярнымі (сонечнымі) міфамі. Гэта — жар-птушка, свінка — залатая шчацінка, залатарогая каза, певень — залаты грэбень, каток — залаты лабок, курыца або качка, якія нясуць залатыя яйкі, царыца з залатыміваласамі. Казачны герой шукае «белае поле, на белым полі ляжыць ложа, на тэй ложы ляжыць спіцца панна, у галавах стаіць конь, і з лубка жар есць» (там жа, № 70). Гэта, безумоўна, міфалагічны сімвал узыходу сонца. З салярнымі міфамі генетычна звязаны традыцыйныя для беларусаў купальскія абрады і песні (гл. *Купалле).* У купальскіх песенных матывах стараж. язычніцкі міф пра бога (багіню) сонца Купалу зліўся з хрысціянскім вобразам Іаана Прадцечы (Хрысціцеля). Тыповы зачын купальскіх песень: «Сёння Купала, заўтра Ян» і тыповы прыпеў: «Ой, рана на Івана!» (Купальскія і пятроўскія песні. Мн., 1985. С. 69—78). Спалучэнне язычніцкіх і хрысціянскіх міфалагічных вобразаў — характэрная рыса нар. абрадавых песень. Так, у вясельнай песні жанчыны просяць «Кузьму-Дзям'яна», каб ён скаваў моцную «свадзебку», а забытага язычніцкага Сулуку — каб навечна злучыў маладых. Часта ўпамінаюцца бог, Хрыстос, анёлы, іх просяць блаславіць маладых і вяселле. Анёлы, стоячы «на моры сінюсенькім», звяртаюцца адзін да аднаго: «Пабяромся ды за ручанькі, //Пабяжым на заручанькі...//Там дзевачка заручаецца, //Ад бацюхны адлучаецца» (Вяселле. Песні. Кн. 1. Мн., 1980. С. 38). У *суборную суботу* вясельніцы спяваюць «Тройца па царкве халадзіла,//Спаса за ручку вадзіла.— Прачыстая маці,// Прыдзі к нашай хаце//Вяселле зачынаці,//Каравай рашчыняці...» (там жа. Кн. 2, 1981. С. 62). Гэта — не так малітва, як паэтычны прыём падвышэння аж да неба важнай у жыцці чалавека зямной падзеі, мастацкі прыём яе ідэалізацыі. Таксама, як шматлікія звароты маладой-сіроткі да боскіх сіл раскрываюць яе трагічны настрой, боль па навекі страчаных бацьку і маці. Перад кульмінацыяй своеасаблівай вясельнай оперы сірата звяртаецца да бога і святых, каб яны адпусцілі з неба бацькоў або самі прыйшлі на вяселле: «Ты не стой, божанька, за дзвярыма (2), А хадзі ж, божанька, к сіраце ў хату.//Некаму сірату блаславіць...» (там жа. Кн. 3, 1983. С. 79). Такім чынам, у бел. фальклоры, як і ў нар. творчасці інш. слав. народаў, міфалагічныя вобразы, сюжэты і матывы дайшлі да нас у рэдукаваным выглядзе, у значнай ступені страцілі свой ранейшы містычны сэнс, набылі значэнне мастацкіх метафар і сімвалаў. *У. М. Конан.*

**МІФАЛО́ГІЯ** (грэч. mythología ад mýthos паданне + lógos слова, вучэнне), сукупнасць міфаў — паданняў пра аб'екты жывой і нежывой прыроды, чалавека і грамадства, якія ўзнікалі ў свядомасці людзей у першабытным грамадстве і несвядома-мастацкім спосабам адлюстроўвалі іх уяўленні пра навакольны свет у выглядзе багоў, дэманічных істот; навука пра міфы. М. замацоўвае характэрнае для першабытнай культуры сінкрэтычнае адзінства мастацкай творчасці, рэлігіі і першапачатковых рэальных уяўленняў пра навакольны свет. «У дні свайго дзяцінства, ...голымі рукамі змагаючыся з прыродай, у страху, здзіўленні і захаплен-

ні перад ёю, [народ] стварае рэлігію, якая была яго паэзіяй і змяшчала ў сабе ўсю суму яго ведаў пра сілы прыроды, увесь вопыт...» (Горкі М. Зб. тв.: У 30 т. Т. 24. М., 1953. С. 26). Для М. характэрна наіўнае адухаўленне навакольнай прыроды, яе аб'ектаў і стыхій, якое адбываецца на аснове знешніх прыкмет або выкліканых імі эмацыянальных пачуццяў. У міфах чалавек імкнуўся растлумачыць і ўпарадкаваць навакольны свет. М. ўключае міфы этыялагічныя (пра паходжанне і ўласцівасці аб'ектаў і з'яў прыроды), антрапагенічныя (пра паходжанне чалавека), этнагенічныя (пра паходжанне роду і яго інстытутаў, асобных народаў), касмаганічныя (пра ўзнікненне сусвету), тэаганічныя (пра багоў) і інш. М., звязаная з гаспадарчай дзейнасцю чалавека, памагала замацоўваць і перадаваць праз пакаленні практычныя навыкі (здабыванне агню, выраб ганчарнага і інш. посуду, выплаўка металаў). У М. народаў звязаных генетычна, напр. індаеўрапейскіх, шмат агульных сюжэтаў, падобных па функцыях і інш. характарыстыках міфалагічных вобразаў (стараж.-грэчаскі бог Зеўс, рымскі Юпітэр, слав. *Пярун*, балцкі Пяркунас і інш.). На Беларусі найбольш вядомыя этыялагічныя міфы: пра дрэвы (бярозу, рабіну, явар, дуб, каліну), пра кветкі (браткі або травіцу брат-сястрыца, зязюльчыны слёзы, папараць-кветку), пра птушак (зязюлю, бусла, ластаўку, салаўя, дзятла, варону), пра паходжанне асобных азёр, рэк, балот, узгоркаў (курганоў) і інш. Характэрнымі ўзорамі міфаў пра мінулае бел. народа, яго паходжанне з'яўляюцца міфалагічныя паданні пра *волатаў* і курганы-*валатоўкі*. Паступова міфалагічныя паданні пра стараж. багоў відазмяніліся пад уплывам хрысціянскай рэлігіі (замест Перуна Ілья-прарок), аднак асобныя міфы пра язычніцкіх багоў сустракаюцца ў абрадавым фальклоры і ў саміх абрадах (паданні пра «перуновы стрэлы», абрад «Стралы» і інш.). Значна паўней захаваліся паданні пра дэманічных істот: русалак, лесавікоў, палевікоў, дамавікоў (гл. *Дэманалогія)*. Элементы міфалагічных уяўленняў зберагліся ў казках, баладах, замовах, валачобных, купальскіх, вясельных песнях, пахавальных галашэннях (гл. *Міфалагічныя вобразы* ў бел. фальклоры).

*Л. М. Салавей.*

**МЛЫН ВАДЗЯНЫ́**, збудаванне на беразе ракі ці праточнага возера для памолу зерня. Вядомы з часоў Кіеўскай Русі. Будаваліся пры княжацкіх дварах, у манастырскіх вотчынах. Асабліва пашырыліся ў 16—18 ст. Уладальнікамі іх былі таксама купцы і дзяржава. На Беларусі М. в. шырока бытавалі да пач. 20 ст. У асноўным будавалі колавыя, турбінныя і наплаўныя млыны. Найбольш пашыраны быў колавы. Асноўная яго частка — вялікае (да 4 м у дыяметры) вертыкальна пастаўленае кола (радзей два), насаджанае на гарызантальную вось. Прыводзілася яно ў рух сілай вады, якая падала зверху на лапаткі кола і круціла яго. Радзей сустракаліся вадзяныя колы ніжняга бою, у якіх вада па нахіленым жолабе біла ў лапаткі кола знізу. Напор вады рэгуляваўся падыманнем і апусканнем засланкі. Пазней на гарызантальны вал сталі насаджваць яшчэ шківы. Апошнія з дапамогай пасаў прыводзілі ў рух шатроўку з вальцамі. Мука трапляла ў т. зв. бурат, дзе прасявалася праз палатняныя сіты. У канцы 19— пач. 20 ст. замест кола на М. в. сталі выкарыстоўваць турбіны дыяметрам ад 1 да 4 м. Турбіна значна павышала энергетычную магутнасць млына і пры «добрай» вадзе круціла 3—4 каменныя паставы, 1—2 шківы з вальцамі і крупадзёрку. Млыны на 1—2 паставы былі невялікія, драўляныя. Млыны ў некалькі паставаў часцей былі 2-павярховыя, цагляныя. Над кожным з паставаў мацаваўся кош для зерня. Зерне з каша па жолабе паступала ў адтуліну верхняга каменя. Мука з ніжняга каменя ссыпалася ў вялікую скрыню — спод. Мяшкі з зернем падавалі на 2-і паверх лябёдкай. У невялікіх млынах іх насілі па лесвіцах-драбінках. На Пд Беларусі (на р. Гарыні, Стыры, Прыпяці і інш.) будавалі і наплаўныя (плывучыя) млыны, колы якіх прыводзіліся ў рух цячэннем вады. Іх будавалі на паўнаводных рэках з моцным і хуткім цячэннем. Асновай для такога млына служылі *паром* ці *баржа.* Упоперак парома клалі гарызантальную доўгую вось, на канцы якой мацавалі лопасці ў выглядзе 6—8-вугольнай зоркі. На другім канцы восі мацавалася кола, якое круціла гарызантальную шасцярню з вертыкальнай воссю, на якую быў насаджаны верхні камень пастава. У канцы 19— пач. 20 ст. жорнавыя млыны перабудоўваліся на вальцовыя. Павялічвалася і колькасць крупадзёрак. У даваенны час малолі ў асноўным у млынах з электрычным рухавіком і М. в. Пасля вайны М. в. паступова замяняліся млынамі-вальцоўкамі з электрычным рухавіком, хаця доўгі час калгасы і саўгасы карысталіся (для кармакухань) М. в., радзей ветракамі. У наш час яны дзе-нідзе захаваліся як помнікі нар. архітэктуры.



**Млын вадзяны.** Вёска Баярская Нава- грудскага раёна.

*Л. І. Мінько.*

**МЛЫН ВЕТРАНЫ́**, збудаванне для размолвання зерня з дапамогай сілы ветру; тое, што і *вятрак.*

**«МЛЫНО́К»**, традыцыйны танец. Называлі таксама «Мельнік». Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп жвавы. Мае некалькі варыянтаў музыкі, харэаграфіі і прыпевак. Танцоры ў час выканання імітавалі вярчэнне млынавых жорнаў, работу млынара. У Гомельскай вобл. ў «Мельніку» чацвёра выканаўцаў злучалі ў цэнтры правыя рукі і беглі па крузе, а пад іх рукамі ваўчком круціўся пяты танцор. Часам танцоры голасам перадавалі тарахценне млына. У Лельчыцкім р-не чацвёра выканаўцаў, злучыўшы ў цэнтры левыя рукі, круціліся па крузе, рабілі ўзмахі рукамі над галавой і далучалі іх да левых рук, гэтым самым імітавалі кручэнне лопасцей ветрака. На Віцебшчыне саліст круціўся ў цэнтры хаты ў прысядцы з выцягнутай убок нагой (рух «млын»). На сцэне «М.» выконваўся ў пачатку 20 ст. Першай бел. трупай І. Буйніцкага. *Ю. М. Чурко.*

**«МОГИЛЁВСКАЯ СТАРИНА́»**, зборнік дакументаў і артыкулаў па гісторыі, этнаграфіі і археалогіі Магілёўшчыны, перадрукаваных з неафіцыйнай часткі «Могилёвских губернских ведомостей» за 1898—1903. Выдадзены ў 3 выпусках (1900—03) пад рэд. Е. Р. Раманава. У «М. с.» змешчана Баркулабаўская хроніка, «Апісанне Крычаўскага графства або былога староства» А. Мейера, дакументы і артыкулы па гісторыі Магілёва, Оршы, Быхава, Крычава і інш. населеных пунктаў, каштоўны этнагр. матэрыял (песні, казкі, прыказкі, павер'і, апісанні дзіцячых гульняў, лячэнне нар. медыцынай і інш.), артыкулы пра археал. і нумізматычныя знаходкі, агляды архіўных фондаў па гісторыі Магілёўшчыны.

**«МОГИЛЁВСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, афіцыйная газета. Выдавалася на рус. мове ў 1838—1917 Магілёўскім губернскім праўленнем. Мела 2 часткі: афіцыйную і неафіцыйную (з 14.7.1839). Да 1849 выходзіла нерэгулярна; да 1858, у 1864—69 і з 1916 штотыднёва, у 1859—63, 1870—1903 і з 1906 два, а ў 1904—05 тры разы на тыдзень. У афіцыйнай частцы змяшчаліся ўрадавыя ўказы і паведамленні, аб'явы і распараджэнні мясцовай адміністрацыі. У неафіцыйнай — літаратурныя творы, гісторыка- і літаратуразнаўчыя артыкулы, краязнаўчыя, этнагр. і фальклорныя матэрыялы.

Першая этнагр. публікацыя — «Статыстычны агляд Магілёўскай губерні» (адначасова і этнаграфічны агляд, 1839, № 7—19). У 1840 — 50-я г. даследаваліся мова, фальклор і традыцый-

ная абраднасць карэннага насельніцтва: «Магілёўскія павер'і. Волаты. Чараўнікі» (1850, № 18—19), «Машэка (Народнае паданне)» (1851, № 8); «Святочныя забаўкі ў Магілёўскай губерні» (1852, № 6) Ф. Падабеда; «Вяселле беларускіх сялян» М. Галынскага (1841, № 47); «Беларускія прыказкі» К. Мальчэўскага (1850, № 40—42,45); «Шчадрэц» Н. Гашкевіча (1852, № 11); «Збіранне беларускіх слоў» С. Сакалова (1854, № 44—50); «Свята дзядоў на Беларусі» (крыптанім Пвлвч М. — Паўловіч М., 1841, № 45); невядомых аўтараў: «Пястун (Народнае павер'е)» (крыптанім П. Д., 1848, № 34), «Дзяды» (крыптанім П. З., 1849, № 17), «Магілёўскія прыкметы» (1849, № 4—5), «Загадкі (ужывальныя ў Магілёўскім павеце)» (1849, № 9), «Беларускія прыказкі» (1850, № 45), «Беларускія імёны мужчынскія і жаночыя» (1850, № 46), «Каляда» (1852, № 3), «Святочная варажба ў Магілёўскай губерні» (1852, № 8). Характэрная рыса публікацый гэтага перыяду — шырокае выкарыстанне этноніма «беларусы» і назвы «Беларусь».

У 1860—70-я г. этнагр. вывучэнне Беларусі актывізавалася, павялічылася колькасць аналітычных артыкулаў. Агульнялыны характар мелі артыкулы «Пра беларускую народнасць» Ф. Падабеда (1862, № 22), «Юрыдычныя звычаі пры шлюбах і раздзеле» С. Катырло (1868, № 3), «Погляд па уласнасць» С. С. Бекарэвіча (1867, № 29), «Звычаі і павер'і ў некаторых мясцовасцях Рагачоўскага павета» Я. М. Кучынскага (1868, № 22), «Магілёўская шляхта» Дубенскага (1866, № 21—23, 32, 33), невядомых аўтараў: «Набожнасць, адукаванасць, норавы і звычаі Магілёўскай шляхты» (1866, № 32), «Рысы з нораваў магілёўскіх мяшчан» (1870, № 39). Аднак большая частка артыкулаў вызначалася цягай да апісальніцтва, прысвячалася абрадам і звычаям [«Сельскія нарысы. Сяло Нежкава» (1864, № 31, 33, 45) і «Сельскія нарысы. Вясельны абрад у сялян у прыходзе с. Нежкава Магілёўскага павета» (1865, № 13) Бекарэвіча, «Пра каўтун у Магілёўскай губерні» Дубіцкага (1861, № 94); «Сялянскае жыццё ў Мсціслаўскім павеце» І. Сердзюкова (1867, № 50—52; 1868, № 14, 17, 23—30, 33—35, 40, 41, 45,), «Карцінка з беларускага жыцця» В. Біпена (1869, № 2), «Сустрэча Новага года ў Гомельскім павеце» П. Маркоўскага (1870, № 6), невядомых аўтараў: «Начлег у Смолкі» (крыптанім Сав-скі К., 1870, № 38), «Святочная батлейка ў Магілёве» (крыптанім К. і Д., 1866, № 4), «Пра Пінскі павет» (1866, № 21—24), «Каляды ў Гомельскім павеце» (1870, № 6)]. Змяшчаліся перадрукі з інш. газет — «Водгук «Северной почты» адносна Магілёўскай губерні на рускай этнаграфічнай выстаўцы ў Маскве» (1867, № 26). Мясцовымі сіламі была распрацавана «Праграма для збірання народных юрыдычных звычаяў» (1867, № 20, 21, 23, 24, 27).

У 2-й пал. 1870—80-я г. этнагр. матэрыялы змяшчаліся рэдка. Надрукаваны «Праграма па збіранню этнаграфічных звестак для антрапалагічнай выстаўкі» (1879, № 1), артыкулы невядомых аўтараў: «Фізічнае выхаванне дзяцей да 4-гадовага ўзросту ў сялян Магілёўскага павета» Венцава (1879, № 11), «Некалькі нататак пра трэці том выдання кнігапрадаўца Вольфа пад назвай «Маляўнічая Расія» (1883, № 52, 68, 75, 76), «Сватаўство, заручыны і вяселле паводле звычаяў у Літве» (1884, № 87—90). Інтэнсіўнасць друкавання этнагр. матэрыялаў значна ўзрасла ў пач. 1890-х г., пашырылася тэматыка. Побыту прафесійных груп прысвечаны артыкул «Плытагоны-беларусы» (1888, № 92), нар. тэатру — «Батлейка на Беларусі» (1895, № 6), іншаэтнічнаму насельніцтву — «Латышскае свята ў зелені ў Аршанскім і Віцебскім паветах» (1896, № 56), грамадскаму побыту — «Кірмаш у Магілёве» (1897, № 65, 73, 97). Па-ранейшаму шмат увагі аддавалася фальклору і нар. звычаям (невядомыя аўтары: «Забабоны беларусаў», 1889, № 18; «11 беларускіх замоў», 1889, № 18; «Дзве замовы з Чэрыкаўскага павета», 1889, № 2; «Тры беларускія песні», 1890, № 12; «Новы зборнік духоўных вершаў», 1891, № 58; «Васільеў дзень на Беларусі», 1893, № 6).

З прыходам у рэдакцыю вядомага бел. этнографа Е. Р. Раманава (рэдактар неафіцыйнай часткі ў 1897—1903) газета становіцца сродкам прапаганды гуманітарнага вывучэння Беларусі. Раманаў надрукаваў некалькі праграмных артыкулаў: «Што зроблена па вывучэнню Магілёўскай губерні і што неабходна яшчэ зрабіць» (1898, № 15, 16, 21, 22, 35), «Праграма для збірання пісанак» (1898, № 21), «Праграма для збірання звестак пра лялечны народны тэатр» (1898, № 22), «Збіранне звестак пра жабрацтва» (1898, № 45), «Збіранне звестак пра саматужныя промыслы ў Магілёўскай губерні» (1898, № 49), што спрыяла прыцягненню для супрацоўніцтва ў газеце мясцовай інтэлігенцыі і сялян (невядомыя аўтары: «Каляды ў Сененскім павеце», крыптанім К. А., 1898, № 103—104; «Курная хата», 1901, № 84; «Ворыва першабытнай сахой у XX ст.», 1904, № 25). Агляд іх дзейнасці рабіў Раманаў («Пра збіранне этнаграфічных матэрыялаў», 1900, № 10; «Фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, дасланыя ў рэдакцыю «Могилёвских губернских ведомостей» яе чытачамі» (1901, № 50). У 1901 апублікавана праца А. Меера «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года». У газеце змешчаны артыкулы Раманава «З запісной кніжкі этнографа» (1897, № 97, 98, 101), «Вяліндзень у Магілёве ў 1697 г.» (1898, № 27), «Беларускія тэксты батлеечнага дзейства» (1898, № 45, 46, 49—52), «Жабрацтва ў Магілёўскай губерні» (1899, № 39), «Катрушніцкі лемязень. Умоўная гаворка Дрыбінскіх шапавалаў» (1899, № 83—102), «Матэрыялы да вывучэння гаворак Магілёўскай губерні. С. Высокае Аршанскага павета» (1902, № 70—72, 74, 76, 79—81, 83, 85, 86), «Культурныя перажыванні» (1900, № 17), «104-гадовы стары» (1901, № 64), а таксама «Беларускі зборнік XVII ст.» (1898, № 91, 94, 100), «Зборнік беларускіх замоў пачатку XIX ст.» (1900, № 19, 20, 22, 29, 30); «Бібліяграфічны паказальнік прац Е. Р. Раманава ў сувязі з 25 угодкамі (1876—1901) яго навукова-літаратурнай дзейнасці» (1901, № 88—90, 92). *П. У. Церашковіч.*

**МО́ГІЛКІ**, месца *пахавання* нябожчыкаў (называлі таксама пагостам, кладамі). У традыцыйным светаўяўленні лічыліся сакральным месцам спачыну душ, якому прысвечаны шматлікія міфалагічныя сюжэты, прымхі, павер'і, абярэгі. Формы М., іх знешні выгляд адлюстроўваюць побыт, абрадавыя традыцыі, культуру, рэлігійныя і маральна-этычныя ўяўленні розных часоў і народаў. У продкаў беларусаў — крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, як і ў суседніх усходнеслав. і балцкіх плямён, да 10—11 ст. панаваў язычніцкі абрад трупаспалення. Нябожчыкаў пасля аплаквання спальвалі на рытуальным вогнішчы, якому адводзілася функцыя ачышчэння, а прах — попел з рэшткамі касцей, упрыгожанняў і інш.— зграбалі ў урну і хавалі, насыпаючы паверх курган. З прыняццем хрысціянства курганныя пахаванні паступова былі выцеснены абрадам трупапалажэння ў грунтавых ямах, які ў асноўным захаваўся да нашага часу. Тэрыторыю пад М. выбіралі звычайна недалёка ад вёсак на сухіх пагорках ці пакатых схілах з пясчаным і супясчаным грунтам. Часам іх абносілі валам, абгароджвалі плотам ці муравапай сцяной. У гарадах і прыходскіх цэнтрах М. рабілі пры цэрквах, касцёлах і манастырах (у 17—18 ст. такія пахаванні былі абмежаваны ў сувязі з масавымі эпідэміямі халеры). Паводле ўказа 1889 забаранялася размяшчэнне М. бліжэй чым 100 сажняў (213 м) ад апошняга жылля ў горадзе і паўвярсты (528 м) ад вёскі. Прадстаўнікоў розных канфесій у мінулым хавалі асобна, кожнага на сваіх М. Дыферэнцыяцыя па рэлігійнай прыналежнасці вызначала і ўласцівыя той ці іншай этнаканфесіянальнай групе пахавальныя абрады, спосабы пахаванняў, атрыбуты, сімволіку і мемарыяльныя знакі. Так, магілы праваслаўных размяшчаліся галавой на захад, каталікаў — на ўсход. Мемарыяльнымі знакамі служылі крыж або камень з выявай крыжа (крыж ставілі звычайна ў галавах нябожчыка, камень — у нагах). На Пн Беларусі сустракаліся масіўныя вычасаныя з каменю крыжы-жальнікі. У іудзеяў надгробнымі знакамі служылі камяні з выявай 6-канечнай зоркі, у мусульман (татар) — 5-канечнай зоркі і паўмесяца. На М. стараліся хаваць сем'ямі («каб родным на тым свеце ляг-

чэй было сысціся»). Людзей нявызначанай веры, самагубцаў, тапельцаў хавалі за межамі М. Магільныя ўзгоркі часам пакрывалі драўлянымі прамавугольнікамі ў выглядзе века труны ці абгабляванымі гранёнымі калодамі (гл. *Прыкладзіны*). Час ад часу родзічы і блізкія нябожчыкаў падсыпалі надмагільныя бугаркі, абкладвалі іх дзёрнам або невысокім зрубам, абмуроўвалі, абнаўлялі мемарыяльныя знакі (у святочныя дні крыж абвязвалі ўзорнымі ручнікамі, фартушкамі, вянкамі), садзілі дрэвы, кветкі. На памінкі, радаўніцу, на велікодным тыдні на М. прыходзілі, каб аддаць даніну павагі і ўшанаваць памяць памерлых продкаў. Народным звычаем на М. забараняліся гульні, збор ягад і кветак, выпас свойскай жывёлы, высечка дрэў; наўмыснае псаванне магіл і мемарыяльных знакаў расцэньвалася як святатацтва. У наш час замена рэлігійных абрадаў грамадзянскімі, урбанізацыя ўнеслі пэўныя змены ў культурны ландшафт М.; больш разнастайнымі сталі формы пахаванняў, мемарыяльныя знакі, іх сімволіка і эпітафіка. *В. С. Цітоў.*





**Мотальскі строй.** *Жанчыны ў летнім адзенні. Вёскі Тышкавічы і Моталь Іванаўскага раёна. 1930-я г.*

**МОЛЬ,** р о с с ы п, спосаб транспарціроўкі на невялікіх рэках лесаматэрыялаў, не звязаных у *плыты*. Пры молевым *лесасплаве* для затрымання лесу рабілі ўпоперак ракі забому (бом, ланцуг) са звязаных паміж сабою бярвён.

**МОРГ** (ад ням. Morgen), адзінка вымярэння плошчы ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага. Раўняўся 0,71 га. 30 М. складалі *валоку*.

**МОСТ,** збудаванне, па якім праходзіць шлях цераз раку, канал, роў ці іншую перашкоду. На Беларусі найчасцей будавалі М. цераз рэкі. Рабілі іх звычайна з дрэва. М. складаецца з апор і насцілу. Апоры рабілі ў выглядзе паляў — моцных бярвён, якія ўбівалі радамі па 4—12 праз 6—8 м у дно ракі, а таксама ў выглядзе зрубаў з бярвён («ізбіц»), якія для большай трываласці шчыльна запаўнялі каменнем. На апоры звычайна выкарыстоўвалі дрэва больш устойлівае ў вадзяным асяроддзі — дуб, вольху. На вялікіх рэках для забеспячэння апор у час крыгаходу рабілі з бярвён дадатковыя канструкцыі. Паверх паляў ці зрубаў упоперак М. клалі бэлькі, на іх — бярвёны, якія стваралі канструкцыйную аснову насцілу. Насціл рабілі з дошак ці тонкіх бярвён. Звычайна на баках насцілу мацавалі парэнчы. На вялікіх рэках вядомы былі наплаўныя М. Насціл на іх клалі на лодкі. Такі М. існаваў толькі ў цёплую пару года, узімку яго разбіралі. Канструкцыя М. праз равы, што ўваходзілі ў сістэму абароны горада або замка, часта прадугледжвала магчымасць іх хуткай разборкі, каб ускладніць дзеянні ворага (Кобрын, 16 ст.). Для гэтай мэты перад варотамі ў горад ці замак (Віцебск, Давыд-Гарадок, Стрэшын, 17 ст.) таксама рабілі пад'ёмныя масты на ланцугах. На суднаходных рэках у сярэдзіне М. рабілі пад'ёмныя часткі для праходу суднаў (Крычаў, Барысаў, 17 ст.). У наш час будуюцца М. з металічных і жалезабетонных канструкцый. *С. А. Сергачоў.*

**МО́ТАЛЬСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Зах. Палессі. Бытаваў у 19—1-й пал. 20 ст. на невялікай тэр. Іванаўскага р-на (вёскі Моталь, Тышкавічы, Асаўніца). Аснову летняга касцюма жанчын складалі кашуля, спадніца, фартух, гарсэт. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па аснове, са шматлікімі складкамі вакол стаячага каўняра. Тыповым прыёмам аздаблення былі звычайныя строчкі, уручную прашытыя чорнай бавоўнянай ніткай упоперак стаячага каўняра, манжэты. Спадніца — гладкафарбаваны, бурачковы ці чырвоны андарак або палатнянік з белага кужалю, сабранага па лініі таліі на матузок. Фартух кроілі з



**Мотальскі кажух.**

4 полак кужэльнага палатна, якія злучалі дэкар. швом, што дазваляла насіць яго на два бакі. Арнамент натыкання вызначаўся дробным малюнкам чырвонага, чырвона-чорнага, блакітна-чырвона-чорнага геаметрычнага або раслiннага арнаменту. Гарсэт шылі з чырвонага фабрычнага сукна, з серабрыстай парчы, аздаблялі нашыўкамі тасьмы-галуна, стужак, пацерак. Гарсэт запраўлялі ў спадніцу і падпяразвалі шырокім бурачкова-чырвоным поясам ручнога пляцення. Галаўны ўбор — моцна накрухмаленая намітка, завітая на каробачку з чапцом, аздобленая кветкамі па баках або паўкругам спераду. Мужчынскае адзенне складалі

нагавіцы і кашуля навыпуск, падперазаныя шырокім плеценым поясам з кутасамі, галаўны ўбор — саламяны брыль, магерка. Верхняе адзенне — світка, катанка, куртка з чорнага валенага сукна, аздобленая цёмна-сінім аблямоўкай, з бакавымі клінамі-«вусамі». Прыгожым маст. аздабленнем вылучаліся аўчынныя кажухі і паўкажушкі (гл. *Мотальскія кажухі*).

*М. Ф. Раманюк.*

**МО́ТАЛЬСКІЯ КАЖУХІ**, традыцыйнае зімовае народнае адзенне, якое вырабляюць майстры з в. Моталь (Іванаўскі р-н). Пашыраны з даўніх часоў. Шылі доўгія шчыльныя да стану белыя нядубленыя кажухі з адкладным каўняром. Кроілі з бакавымі клінамі («вусамі»), зашпільвалі на гаплікі. М. к. багата аздаблялі рознакаляровай вышыўкай «козлікам», гладдзю, нашыўкамі пярэстага шнура, раменьчыкаў, тканіны (найчасцей блакітнае, чырвонае, зялёнае сукно), пампонамі. З 1930-х г. М. к. робяць з дубленых аўчын, якім надаюць чырвона-цагляны ці вохрысты колер. Яны кароткія, прамога ці паўпрыталенага сілуэту, найчасцей са стаячым каўняром і футравай аблямоўкай удоўж верхняга крыса, па нізу і разрэзах кішэняў. Аздабляюць каляровымі рамеаьчыкамі, працягнутымі праз вузкія надрэзы ўздоўж швоў, а таксама вышыўкай (зялёныя сцяблінкі з кветкамі вышывалі на кішэнях, нізе рукавоў, верхняй прыкаўнернай частцы спінкі). Некаторыя краўцы працуюць у сістэме Мастацкага фонду БССР.

*М. Ф. Раманюк.*

**МО́ТАЛЬСКІЯ РУЧНІКІ́**, традыцыйныя тканыя ручнікі, якія выплабляюць ткачыхі ў в. Моталь Іванаўскага р-на. Вядомы з канца 18 ст., у 2-й пал. 19 ст. ў Моталі працавалі ткачы-рамеснікі. Даўжыня М. р. звычайна 210—240 см, шырыня 30—33 см. Ткуць «у елачку» пераборнай тэхнікай у 4 ніты, спуюць у 8—10 пасмаў. Традыцыйны колер узораў — чырвоны з чорным (у сучасных таксама з сінім, зялёным). Кампазіцыя ручнікоў 2 відаў: у адным па аснове праходзяць 2—3-каляровыя (у сучасных 4-каляровыя) палоскі-«коскі», у другіх — па ўтку шмат каляровых арнаментальных палосак («затканыя беражкамі»), якія перасякаюцца з каляровымі палоскамі асновы. Даўней аснова і уток былі з ільняных нітак, а ўзор натыкалі горыню; у наш час ручнікі ткуць з ільняных, баваўняных нітак, а ўзор натыкаюць мулінэ, ірысам. На канцах ручнікоў арнаментальны малюнак («у зубры», «у кветкі», «у лісты», «у жучкі») займае 7—8 см. Заканчваюцца традыцыйныя ручнікі карункамі, якія плялі з нітак асновы ўручную (у сучасных карункі вяжуць кручком). У 1977 у в. Моталь створаны ткацкі цэх Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

*М. П. Жабінская.*



**Мотальскі строй.** Жанчыны ў летнім адзенні. Вёска Моталь Іванаўскага раёна. 1930-я г.





**Мотальскія ручнікі.**

**МСЦІСЛА́ЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, вырабы мясцовых ганчароў 12—19 ст. з Мсціслава. У 12—13 ст. выраблялі гаршкі з канаўкай на ўнутранай паверхні, аздобленыя на плечуках хвалістым арнаментам, насечкамі і наколкамі (такі дэкор захоўваўся да 15 ст.). Посуд 12—15 ст. меў на донцах клеймы ў выглядзе крыжоў, кругоў, ромбаў, трохвугольнікаў і інш. Посуд канца 16— пач. 18 ст. (гаршкі, кубкі, куфлі, збаны, глякі, рынкі, талеркі, міскі) звонку і знутры пакрывалі зялёнай і карычневай палівай; выраблялі і чорназадымлены посуд (гладышы). Вырабы аздаблялі шматрадковым лінейным або хвалістым узорам, радзей штампам, часам упрыгожвалі налепамі ў выглядзе кветак. У 15—18 ст. рабілі і гартаваны посуд. З сярэдзіны 17—18 ст. выраблялі размаляваны посуд (талеркі, паўміскі, збаны, куфлі), аздоблены раслінным арнаментам, паліваныя падсвечнікі, рукамыі, магчыма, люлькі, а таксама цэглу-

пальчатку. У 19 ст. асартымент вырабаў звузіўся.

*Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў.*

**МУЗЕЙ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА** ў Маскве. Адкрыты 9.5.1885 як Гандлёва-прамысловы музей саматужных вырабаў Маскоўскага губернскага земства. У 1932 на базе майстэрняў і аддзелаў музея створаны Ін-т мастацкай саматужнай прамысловасці (цяпер Навукова-даследчы ін-т мастацкай прамысловасці). Музей працуе як аддзел ін-та, у 1946 перайменаваны ў М. н. м. Мае больш 50 тыс. экспанатаў (1988) з 18 ст. да нашых дзён. У музеі калекцыі вырабаў нар. мастацтва і мастацкіх промыслаў народаў СССР. У калекцыі нар. маст. промыслаў БССР каля 70 экспанатаў: узоры ткацтва і вышыўкі, выкананыя ў 1930—50-я г. (ручнікі, посцілкі, абрусы, кашулі, паясы і інш.). Некаторыя з іх экспанаваліся на міжнар. выстаўках у Парыжы і Нью-Йорку. Музей арганізуе тэматычныя стацыянарныя і перасоўныя выстаўкі, выстаўкі работ асобных мастакоў, праводзіць запіскі з майстрамі і мастакамі прадпрыемстваў мастацкіх промыслаў, дае свае калекцыі для работы прапагандыстам нар. мастацтва і даследчыкам. *Г. А. Якаўлева.*



Мсціслаўская кераміка. Паліваны посуд. 17 ст.



Музей этнаграфіі ў Магілёве. Фрагмент экспазіцыі.



Музей этнаграфіі ў Магілёве. Фрагмент экспазіцыі

**МУЗЕЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ БЕЛАРУСІ** Бабруйскага сярэдняга мастацкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 15. Створаны ў 1976. З 1984 мае званне народнага. Мае 4 выставачныя залы, пл. экспазіцыі 120 м². Прадстаўлена прадукцыя фабрык мастацкіх вырабаў Беларусі, творчасць нар. майстроў, у т. л. самадзейнага скульптара-разьбяра па дрэве В. В. Альшэўскага, майстроў пляцення мастацкіх вырабаў з саломкі К. Г. Арцёменка, В. І. Гаўрылюк, мастака-кераміста М. М. Пушкара, ганчара А. Р. Такарэўскага. У адной з залаў узноўлены інтэр'ер бел. сялянскай хаты са страж. мэбляй, посудам, кроснамі, прасніцай і інш. Будынак музея ўпрыгожаны разнымі вуглавымі нашчыльнікамі і ганкам, карункавай разьбой на ліштвах і вокнах (выкананы вучнямі вучылішча).

**МУЗЕЙ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ** Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Адкрыты 15.5.1979 у Мінску. Плошча выставачных залаў звыш 600 м². Больш за 17 тыс. экспанатаў (1988), з якіх 2500 у экспазіцыі. Раздзелы: археалогія, этнаграфія, нар. мастацтва, нар. музычныя інструменты, страж. мастацтва і старадрукі. Археалагічныя матэрыялы асвятляюць этапы асваення чалавекам тэр. Беларусі, складванне і паступовую змену асноўных археалагічных культур, расказваюць пра раннефеадальныя гарады і паселішчы, паказваюць развіццё эстэтычных уяўленняў і мастацкіх навыкаў ад эпохі палеаліту да позняга феадалізму (скульптурная выява галавы чалавека, 3—2-е тысячагоддзе да н. э.; фрагменты арнаментаванага керамічнага посуду, канец 5—3-е тысячагоддзе да н. э.; узоры скуранога абутку 12 ст. з Полацка і інш.). У раз-



Музей народнай творчасці Беларусі. Фрагмент экспазіцыі.





Музей старажытнабеларускай культуры. Фрагменты экспазіцыі раздзела этнаграфіі.



Музей старажытнабеларускай культуры. Фрагмент экспазіцыі раздзела этнаграфіі.

дзеле этнаграфіі матэрыялы, якія характарызуюць матэрыяльную культуру Беларусі 19— пач. 20 ст. (с.-г. прылады працы, прылады для рыбалоўства, пчалярства, ткацтва, сталярства, бондарства, прадметы хатняга побыту і інш.). У раздзеле нар. мастацтва ўзоры *гарадоцкай кераміжі* (г. Гарадок), *івянецкай кераміжі, мірскай кераміжі, пружанскай кераміжі, ракаўскай кераміжі, ружанскай кераміжі*, керамічныя цацкі з Ракава, Івянца, Ружан, кафля 18— пач. 20 ст., калекцыя бел. нар. касцюма канца 19—пач. 20 ст. (узоры *навагрудскага строю, неглюбскага строю, кобрынскага строю, маларыцкага строю*, прылуцкага строю), ткацкія вырабы (посцілкі, ручнікі, абрусы, паясы і інш.). Экспануюцца работы сучасных разьбяроў па дрэве В. Альшэўскага, А. Пупко, А. Рабцава і інш. У раздзеле нар. музычных інструментаў калекцыя самагучных, мембранных, духавых і струнных нар. інструментаў. У раздзеле стараж. мастацтва ўзоры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: мастацкія тканіны 17—19 ст., у т. л. *слуцкія паясы*, чаканка, ліццё, фініфць і інш. Экспануюцца абразы, алтарныя карціны, партрэты, скульптура, кнігі першых на Беларусі друкарняў.

*В. В. Церашчатава.*

**МУЗЕ́Й ЭТНАГРА́ФІІ** ў Магілёве. Адкрыты ў 1981 як філіял *Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея*. Мае 2 экспазіцыйныя залы (пл. экспазіцыі 100 м²), 347 экспанатаў (1988). У музеі прылады працы і побыту, адзенне сялян Магілёўскай губ. 19— пач. 20 ст., узоры сучаснага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і інш. Сярод іх: прадметы інтэр'ера сялянскай хаты (стол, лавы, калыска, куфар, прасніца, абраз, ручнікі-набожнікі і інш.), планы вяночнага і пагоннага тыпаў двароў, прылады для земляробства (саха, барана, серп, каса, цэп, сявенька, сахор, рэзгіны і інш.) і рыбалоўства (нерат, восці), пчалярскі інвентар (калода, сетка), інструменты і вырабы дамашніх промыслаў: дрэваапрацоўкі (струг, скоблі, піла лучковая, нацягушы, цыркуль; біклага, дзяжа, карыта, конаўка, сальніца, талеркі і інш. выдзеўбаныя вырабы), ткацтва (верацёны, грабяні, калаўрот, ручнікі), ганчарства (міскі, спарышы, кубак, гарлач, збаны, гляк і інш.), узоры традыцыйнага нар. мужчынскага і жаночага адзення, копыскай кафлі (17—20 ст.). У экспазіцыі

вырабы з саломкі К. Г. Арцёменка, габелены Л. П. Сіваковай, работы разьбяроў па дрэве Г. У. Даніловіча, У. Я. Ісачанкі, самадзейнага майстра Р. Я. Іванчанкі, вырабы вучняў Бабруйскага мастацкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 15, прадукцыя Магілёўскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, абразы (17—20 ст.), драўляная скульптура і фрагменты іканастаса з Магілёўскага Станіславаўскага касцёла.

*Т. І. Салаўёва.*

**МУЗЕ́Й ЭТНАГРА́ФІІ НАРО́ДАЎ СССР,** Дзяржаўны музей этнаграфіі народаў СССР, скарбніца помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры народаў СССР. Знаходзіцца ў Ленінградзе. Заснаваны ў 1895 як этнагр. аддзел Рускага музея. Для наведвання адкрыты ў 1923. У 1934 пераўтвораны ў самастойны музей. У 1948 у яго ўключаны этнагр. зборы Маскоўскага музея народаў СССР. Мае каля 270 тыс. экспанатаў, 140 тыс. негатываў і фотаздымкаў, у т. л. каля 7 тыс. экспанатаў і 3 тыс. фотаздымкаў з Беларусі, бібліятэку, навуковы архіў (1989). У 26 залах размешчаны комплексныя этнагр. экспазіцыі, прысвечаныя народам СССР, і экспазіцыі «Саюз раўнапраўных народаў», «Новае і традыцыйнае ў сучасным народным жыллі і адзенні», «Сучаснае народнае мастацтва народаў СССР».

У экспазіцыі «Беларусы. Канец 19—пачатак 20 ст.» (створана ў 1972) прадстаўлены матэрыялы пра паходжанне бел. народа, яго побыт, адзенне, вераванні, культуру. Спецыяльны раздзел прысвечаны духоўнай культуры беларусаў. Першая экспедыцыя на Беларусь праведзена ў 1902 Я. А. Ляцкім, які сабраў каля 60 прадметаў, у т. л. музычныя інструменты канца 18—пач. 19 ст. Больш за 1300 экспанатаў сабраў у 1906—14 А. К. Сержпутоўскі. Ён зрабіў фотаздымкі, планы сялib, замалёўкі прылад працы, апісанні побыту сялян. У 1908 каля 300 экспанатаў прывёз з Магілёўшчыны А. А. Мілер. З Віцебшчыны, Гродзеншчыны, Магілёўшчыны каля 1100 прадметаў перадаў у 1903—08 Е. Р. Раманаў. У 1905 В. К. Кастко з Слуцкім і Ігуменскім пав. зрабіў больш за 200 фотаздымкаў і сабраў каля 300 экспанатаў. Праводзіліся экспедыцыі і ў сав. час (Сержпутоўскі, Н. І. Лебедзева, А. С. Бяжковіч і інш.). З 1950-х г. музей набывае вырабы сучаснага нар. мастацтва і мастацкіх промыслаў. Экспануе свае калекцыі ў інш. гарадах СССР і за мяжой. У 1983 выстаўка «Беларускія калекцыі ў зборы Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР» была наладжана ў музеі бел. нар. мастацтва ў Раўбічах.

*В. Р. Пісарэнка.*

**МУЗЫ́КА,** народны скрыпач на Віцебшчыне. Называлі таксама скамарох (Магілёўшчына). У канцы 19—пач. 20 ст. назва М. перайшла на гарманіста. З 16 ст. М. займае прыкметнае месца ў грамадскім жыцці народа, задавальняючы яго духоўныя патрэбы. Без М. не абыходзіліся многія каляндарна-земляробчыя і сямейныя святы, кірмашы, ігрышчы, вячоркі, бяседы. На іх М. іграў сола або разам з інш. музыкантамі ў ансамблі, тураваў спевам. Рэпертуар М. вылучаўся асаблівым багаццем, уключаючы гукавыяўленчыя і імправізаваныя, песенныя, танцавальныя і маршавыя найгрышы ва ўсёй разнастайнасці іх вобразна-эмацыянальнага і стылявога зместу. Згодна нар. ўяўленню, сапраўдным, «прыродным» М. можа быць толькі той, хто прадаў сваю душу д'яблу, які і даў яму надзвычайную сілу ўздзеяння на ўвесь навакольны свет. На працягу ўсяго жыцця М. выказваў выключную адданасць свайму інструменту і музычнай справе. Таму невыпадкова ў многіх мясцовасцях Беларусі пасля смерці М. разам з ім у труну кладуць скрыпку. Мастацтва ігры на ёй М. пераймаў па традыцыі ў сям'і, спасцігаў самавукам («сам праз сябе») або ад славутага «майстра», які нярэдка быў заснавальнікам мясцовай выканальніцкай школы. Вясковы М. вёў і гаспадарку, бо адным «музыкарствам» не мог забяспечыць сям'ю. Адносіны аднавяскоўцаў да М. былі дваякія: з аднаго боку, народ лічыў, што «з музыкі хлеб невялікі», «музыка і дудар — невялікі гаспадар»; з другога — бачыў у ім носьбіта радасці і вяселосці, выразніка пачуццяў і думак народа. Пра М. складзены паданні, казкі, песні, загадкі. Роля М. ў значнай ступені захоўваецца ў побыце сучаснай вёскі.

*М. Я. Грынблат, І. Дз. Назіна, А. С. Фядосік.*



Мурня.



Мэбля. Крэслы. Пачатак 17 ст.

**МУЗЫ́ЧНЫ ФАЛЬКЛО́Р,** песенная і інструментальная творчасць народа; тое, што і *народная музыка.*

**МУ́РНЯ,** прамавугольная ў плане пабудова з плеценымі і абмазанымі глінай сценамі для зімоўкі пчол. Крыюць М. саломай, дранніцай, дошкамі. Вуллі ставяць, як і ў *імшаніку,* на папярочныя лягары (бэлькі, леглі) на вышыні 30—50 см ад зямлі. Пашырана ва ўсх. раёнах Палесся.

**МУ́ТНІК,** традыцыйная рыбалоўная снасць тыпу *невада* для лоўлі рыбы (пераважна яршоў) на вялікіх глыбінях. Лакальная назва ершавік. Меў *куль* (даўжынёй каля 4—5 м) і 2 крылы



Мэбля. Шафа размаляваная. Пастаўскі раён. 1883.

(каля 10 м). М. аснашчалі грузіламі і паплаўкамі так, каб тануў на дно. Ад крылаў адыходзілі доўгія вяроўкі (каля 200 м), на якія прывязваліся кавалкі сетак, анучы, пучкі саломы, сена, што муцілі ваду пры падцягванні снасці да лодак або да берага. Каламуць накіроўвала рыбу да крылаў, а затым і ў куль. М. рыбачылі ў асноўным у Паазер'і.

*І. М. Браім.*

**МЭ́БЛЯ** (франц. meuble ад лац. mobilis рухомы), адзін з відаў абсталявання памяшканняў, а таксама транспарту, зон адпачынку і інш. Актыўна ўдзельнічае ў мастацкай арганізацыі інтэр'ера, прызначана захоўваць рэчы, служыць апорай цела чалавека пры выкананні ім бытавых або працоўных функцый. Падзяляецца на бытавую (для жылых памяшканняў) і спецыяльную (тэатральную, бібліятэчную, музейную, медыцынскую, школьную і інш.).

М. аб'ядноўвае функцыянальныя, канструкцыйныя і эстэтычныя асновы, як і архітэктура звязана з мастацкімі стылямі, тэхнічным узроўнем і характарам вытворчасці, адлюстроўвае сац.-бытавы ўклад грамадства, яго эстэтычныя ідэалы і нац. традыцыі. Матэрыяламі для вырабу М. служаць драўніна, лаза, метал, скура, тканіна, пластмаса і інш. Для аздаблення М. прымяняюць разьбу (гл. *Разьба па дрэве), інкрустацыю*, размалёўку, мазаіку, пазалоту, паліраванне, *фляндроўку* і інш.

М. набыла пашырэнне адначасова з развіццём мураванай і драўлянай архітэктуры (11—13 ст.). У 14—16 ст. М. палацаў і замкаў была масіўнай, простых прысадзістых форм, аздобленая нізкарэльефнай разьбой геаметрычнага і расліннага характару, металічнай акоўкай, таніравалі яе ў цёмна-карычневы колер, паліравалі. У 17—18 ст. пад уплывам стылю барока яна набыла больш вытанчаныя, адмысловыя формы, аздаблялася высокарэльефнай і ажурнай разьбой раслiннага характару, размалёўкай. У многіх гарадах Беларусі працавалі цэхі майстроў-мэбельшчыкаў. У 2-й пал. 17 ст. разьбяры і сталяры-мэбельшчыкі з Віцебска, Шклова, Оршы і інш. працавалі ў Маскве, дзе выраблялі для палацаў і храмаў шафы, крэслы, сталы, куфэркі, аздобленыя разьбой, размалёўкай, залачэннем, абіўкай аксамітам, акоўкай. З канца 18 ст. пад уплывам класіцызму формы і дэкор М. становіліся больш спакойнымі і ўраўнаважанымі. Шырока ўжываліся тачэнне, залачэнне, абіўка тканінамі, металічныя літыя накладкі ў выглядзе маскаронаў (скульптурныя ўпрыгожанні ў выглядзе чалавечага твару або галавы жывёлы, зрэзаных ззаду), звярыных лап і інш. Гладкія плошчы драўніны аздаблялі інкрустацыяй ці мазаікай. Паводле ўзораў, прывезеных з краін Зах. Еўропы, бел. прыгонныя майстры выраблялі М. для палацаў і хрaмаў (гарнітуры для палацаў у Гомелі, Нясвіжы, Жылічах і інш.). Пашыралася садова-паркавая чыгунная М., якую выраблялі на мясцовых чыгуналіцейных заводах. М. ў небагатых сядзібах і гар. жыллі была больш простая, нярэдка афарбаваная ў адзін колер (звычайна зялёны). Прадметы абсталявання бел. нар. жылля феад. эпохі непматлікія і простыя, выконвалі чыста утылітарныя функцыі. Паводле канструкцыйных і тэхналагічных асаблівасцей М. была рухомай (стол, звычайна на козлах, *услон, зэдлік*, тапчан, ёмістасці для захоўвання бытавых рэчаў, у залежнасці ад патрэбы — *калыска*) і нерухомай (*лава, паліца, палаці*, палок, крукі-вешалкі і інш.). Яна ствалася разам з хатаю і ўтварала з яе інтэр'ерам (гл. *Інтэр'ер хаты*) адзінае цэлае. Нярэдка для вырабу М. ўжывалі ствалы дрэў з каранямі і адгалінаваннямі, якія ўтваралі ножкі. Абсталяванне нар. жылля вызначалася прадуманасцю, функцыянальнасцю, кожная рэч мела сваё месца, замацаванае шматвяковымі традыцыямі. Рабілі М. звычайна самі гаспадары ці мясцовыя майстры-саматужнікі. Больш разнастайнай стала нар. М. з канца 19 ст. Набылі пашырэнне *сталы* на ножках, *куфры, шафы, канапы, ложкі, крэслы*, падвясныя паліцы ці шафкі для посуду. Павялічылася колькасць рамеснікаў-мэбельшчыкаў, у многіх гарадах і мястэчках працавалі майстэрні, у Бабруйску — мэблевая фабрыка. У Гомелі, Магілёве, Давыд-Гарадку (Столінскі р-н), Лахве (Лунінецкі р-н) і інш. выраблялі М., плеценую з лазы (камплект такой М. экспанаваўся на 2-й Усерасійскай саматужніцкай выстаўцы ў Петраградзе ў 1913). Характар дэкору плеценай М. канца 19— пач. 20 ст. вызначаўся ўплывам стылю мадэрн, драўляная М. з гар. майстэрняў багата аздаблялася рэльефнай разьбой, такарнымі элементамі, фляндроўкай, якая імітавала карэльскую бярозу, і інш. Гісторыя нар. М. звязана з развіццём мастацкіх стыляў — класіцызму, ампіру і асабліва барока. Найб. пашыранымі спосабамі аздаблення М. былі прапілоўка, аналагічная нар. архітэктурнай разьбе, расфарбоўка пад каштоўныя пароды дрэва ці размалёўка раслiннымі ўзорамі (гл. *Агоўскія куфры, Давыд-Гарадоцкія куфры).*



Мэбля. Сакрэтнік. 18 ст.



**Мэбля.** Стол. Вёска Ракаў Валожынскага раёна. Пачатак 20 ст.



**Мэбля.** Канапа. Вёска Мядзвецк Чашніцкага раёна. 1938—40-я г.

У наш час традыцыйная самаробная М. амаль поўнасцю выйшла з ужытку. Сучасную М. ў БССР вырабляюць прамыслова-індустрыяльным спосабам з выкарыстаннем найноўшай тэхналогіі на мэблевых фабрыках, прадпрыемствах дрэваапрацоўчай прамысловасці і інш. Ствараюцца масавыя і унікальныя камплекты: пашырана М. штампаваная, клееная, прасаваная, універсальна-разборная, з уніфікаваных элементаў і вузлоў. Асн. канструктарска-маст. асаблівасці сучаснай М.— максімальная зручнасць, функцыянальнасць, праста-

та. Аблічча ствараецца за кошт выяўленай натуральнай прыгажосці каштоўных парод драўніны, з якой выконваецца абліцоўка, дапаўнення металічнымі дэталямі. Асобныя кампаненты М. для грамадскіх памяшканняў выконваюцца па матывах традыц. народнай М., у т. л. і плеценай з лазы. У галіне канструявання М. працуюць мастакі-канструктары, кадры якіх рыхтуе Беларускі дзярж. тэатральна-мастацкі інстытут. Выраб і мастацкае канструяванне М. — галіна дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Беларуская М. карыстаецца попытам у саюзных рэспубліках, экспартуецца ў некаторыя сацыяліст. краіны. *Я. М. Сахута.*

**МЭ́НДЛІКІ**, спосаб сушкі снапоў у полі. Гл. ў арт. *Бабкі.*

**«МЯДЗВЕ́ДЖЫЯ ПАЦЕ́ХІ»**, «мядзведжыя камедыі», паказы скамарохаў — дрэсіроўшчыкаў мядзведзяў. Пашыраны ў 16—19 ст. у Расіі, Польшчы і на Беларусі. Школы дрэсіроўкі мядзведзяў існавалі ў ваколіцах Гродна, Нясвіжа, Мінска, Ракава, на Палессі, найбольш папулярная з іх т. зв. «Смаргонская акадэмія». Бел. дрэсіроўшчыкі мядзведзяў упершыню ўпамінаюцца ў пач. 16 ст., калі «мядзведнікаў» абкладалі спецыяльным падаткам. Існаваў асобы рэпертуар «М. п.», які складаўся з бытавых сцэнак, анекдотаў, жартаў; выкарыстоўваўся спец. рэквізіт (палкі, бубен, шапкі). Паказы суправаджаліся жартамі і прымаўкамі павадыра, часта спалучаліся з выступленнямі скамарохаў-акрабатаў, лялечнікаў і музыкантаў. Разам з «мядзведжым цкаваннем» і «мядзведжай бойкай» уваходзілі ў мядзведжыя гульні. Павадыры з «вучонымі» мядзведзямі з Беларусі хадзілі па кірмашах Расіі, Венгрыі, Германіі, Італіі і Скандынавіі. Апошнія паказы зафіксаваны ў пач. 20 ст. *І. Ю. Ягорава.*

**«МЯДЗВЕ́ДЗЬ»**, традыцыйны танец-гульня. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Зыходнае становішча выканаўцаў: двое танцораў стаяць адзін насупраць другога, рукі апушчаны. Спачатку яны прытанцоўваюць, потым адзін з іх становіцца на карачкі («на 4 нагі») а другі садзіцца яму на спіну тварам у процілеглы бок, ахоплівае рукамі ніжняга ніжэй пояса і імкнецца падняць яго ўверх нагамі. Менавіта гэта фігура і паходзіць на ўстаўшага на дыбкі мядзведзя. Танец-гульня суправаджаўся смехам, падбухторваннем, выкрыкамі гледачоў. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Іванаўскім і Камянецкім раёнах. *А. Л. Варламаў.*

**«МЯДЗВЕ́ДЗЬ»**, гульня-паказ і маскаперсанаж у старажытным народным калядным абрадзе. Звязаны з традыцыямі земляробчых святкаванняў зімовага сонцавароту. Мяркуюць, што бярэ пачатак з часоў язычніцтва. Найбольш пашыраны на Палессі, дзе захаваўся і ў наш час.

Здольнага да імітацыі хлопца прыбіралі ў два чорныя вывернутыя поўсцю наверх кажухі (рукавы аднаго надзявалі на ногі, другога — на рукі, крыссе сшывалі ці падвязвалі вяроўкай), на галаву надзявалі шапку з аўчыны, твар вымазвалі сажай ці закрывалі маскай. Часам выканаўцу ролі «М.» спавівалі сухімі сцяблінамі гароху. Гульня паўтарала ў асноўным паказы скамарохаў-мядзведнікаў (сцэна з вучоным «М.» уваходзіла ў рэпертуар *батлейкі*). Павод-







**«Мядзведжыя пацехі».** Гравюра 1555.

**«Мядзведзь».** Выконвае жыхарка вёскі Аляксейкі Івацэвіцкага раёна.

**Мянташкі.**





**Мярэжа.**

**Мялы** для сырыцы.

ле загадаў павадыра «М.» скакаў, імітаваў паводзіны чалавека ў розных жыццёвых абставінах. Разам з «М.» вадзілі *«журайля»* ці *«казу»*, часам у паказах удзельнічаў музыка з бубнам.
*М. А. Каладзінскі.*

**МЯДНІ́ЦА**, даўняя мера сыпкіх рэчываў і вадкасцей на Беларусі. Раўнялася 12 *гарцам* — 33,84 літра.

**МЯДНІ́ЦА**, медная або гліняная пасудзіна накшталт міскі ёмістасцю 8—12 л для ўмывання і мыцця посуду. На З Беларусі гліняныя М. часам рабілі з падстаўкай для мыла і аздаблялі ангобнай размалёўкай.

**МЯЗДРА́**, ніжняя мясістая паверхня скуры; тое, што і *бахтарма*.

**МЯ́ЛА**, м я л к а, прылада (станок) для мяцця сырамятнай скуры. Найбольш стараж. тып М.— 2 калы даўжынёю да 4 м і груз (кола, калодка, жоран). Скуру разразалі на палосы шырынёю каля 30 см і сшывалі ў кольцападобны пас даўжынёю да 5 м, перакідвалі яго цераз перакладзіну, а ўнізе мацавалі груз. Іншы раз палосы сшывалі разам па канцах, адзін канец прывязвалі вяроўкай да бэлькі, а да другога чаплялі груз. Працавалі звычайна 5 мужчын: 4 чал. прасоўвалі паміж палосамі скуры накрыж калы (жэрдкі), 5-ы раскручваў груз, пакуль скура не звівалася ў вяроўку. Калі груз падымаўся ўгору, рабочыя націскалі калы ўніз. Калі груз круціўся ў адваротны бок, калы хутка падымалі да перакладзіны. Працэс мяцця (вярчэння) сырамяці доўжыўся 12—16 гадзін з перапынкамі прыкладна праз кожныя 3 гадзіны для тлушчэння (змазвання дзёгцем) скуры. Іншы раз мяццё ажыццяўлялі 3 чал. з дапамогай аднаго кала. Другі тып М. выкарыстоўваўся пераважна ў мястэчках. Яго састаўныя часткі: драўляны слуп, замацаваны ў падлозе хаты або ўкапаны ў зямлю ў хляве, і 2 дошкі, паралельна насаджаныя на яго. Змазаная дзёгцем скура замацоўвалася клінам у адтуліне слупа. Двое мужчын круцілі дошкі то ў адзін, то ў другі бок, скура накручвалася на калкі вакол слупа, расцягвалася і змякчалася. Ручная праца магла замяняцца коннай цягай. *Н. І. Буракоўская.*

**МЯ́ЛКА**, прылада для пачатковай апрацоўкі (мяцця) ільняной ці канаплянай трасты. Тое, што і *церніца*.

**МЯНТА́ШКА**, прылада для вастрэння *касы*. Рабілі яе з цвёрдай драўніны (дубу, грабу, бярозы) у выглядзе лапатачкі (даўжыня 30—32 см, шырыня 6—7 см) з насечкамі на яе шырокім канцы. Паверхню з насечкамі намазвалі смалою або змочвалі вадою і потым пасыпалі пяском. З пач. 20 ст. пашыраны М. заводскага вырабу.

**МЯРЭ́ЖА**, традыцыйная рыбалоўная снасць. У адрозненне ад *венцера* складалася з двух нацягнутых на абручы *кулёў* (накіраваных уваходамі адзін да другога), злучаных з аднаго боку сеткай, што перагароджвала шлях рыбе і накіроўвала яе ў горлы. Уваход у сеткавыя мяшкі меў форму паўакружнасці. У кулях М.— адно або два сеткавыя горлы, праз якія заплывала рыба. М. ўстанаўліваліся ў вадаёме паасобку і па некалькі штук у рад. Лоўля рыбы М. характэрна для Паазер'я, дзе ў наш час з'яўляецца прыладай прамысловага лову. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. паазерскія рыбакі-мярэжнікі рыбачылі таксама на вадаёмах Літвы, Латвіі, Польшчы. *І. М. Браім.*

**МЯРЭ́ЖКА**, ажурная вышыўка, для выканання якой з палатна выцягваюць неабходную колькасць нітак утку або асновы, а астатнія перавіваюць пэўным спосабам. У залежнасці ад узору, асаблівасцей тэхнікі выканання, колеру вылучаюць простыя і складаныя М., вузкія і шырокія, аднарадныя і шматрадныя, белыя і каляровыя. Адзін з традыцыйных прыёмаў — пруцікаванне — разнавіднасць простай белай М. Свабодныя ніткі збіраюць у пучкі толькі з аднаго боку (кутасік) або з двух бакоў (слупок). Больш складанымі белымі М. (панка, павучок і інш.) аздаблялі звычайна традыцыйнае адзенне з ільняной тканіны — жаночыя кашулі, фартухі, наміткі. Белыя М. служылі дапаможнымі мастацкімі швамі. Больш дэкаратыўнымі былі паліхромныя М. насцілам. Выконвалі іх па М. ў слупок цыравальным швом бавоўнянымі белымі і каляровымі (чырвонымі, чорнымі) ніткамі, асаблівасць пераплячэння і чаргавання якіх дазваляла атрымліваць розныя варыяцыі геаметрычнага ўзору. Такой М. у выглядзе палос з нескладаным арна-

МЯРЭЖКА








Віды **мярэжкі**.

ментам на Падняпроўі аздаблялі падолы і манжэты жаночых кашуль, фартухі, намёткі, ручнікі. Да тыпу складаных аднасяцца насновачныя М., якія ўжываліся як злучальныя дэкаратыўныя швы ў жаночых кашулях і абрусах (паміж дзвюма полкамі падрубленай тканіны насноўвалі льняныя ніткі, якія потым перавівалі ў адпаведнасці з малюнкам цыравальным швом). Вышывалі таксама злучальнай паліхромнай размярэжкай, М. «ў прыкрэп» (Веткаўскі р-н). *В. Я. Фадзеева.*

**МЯСАЕ́Д**, перыяд паміж пачаткам *каляд* і *масленіцай* працягласцю 5—9 тыдняў, калі праваслаўнай царквой дазвалялася есці мяса. М. ахопліваў такія святы і прыкметныя дні праваслаўнага календара, як *вадохрышча*, зрэдку — *грамніцы, Аўлас.*

**МЯСТЭ́ЧКА** (агульнаслав. места — горад), своеасаблівая форма паселішча, прамежкавая паміж *гарадам* і вялікім сялом, *вёскай*. Сфарміравалася ў 15—16 ст. у Вял. кн. Літоўскім. Спачатку М. называлі невял. гарадок. Слова М. паходзіць ад агульнаслав. «места» — так называлі на Беларусі ў 15—18 ст. гарады. Узнікненне М. звязана з таргамі, што ў 1-й пал. 15 ст. існавалі каля велікакняжацкіх і прыватнаўласніцкіх маёнткаў. Наяўнасць на землях Беларусі грашовай рэнты і паступовы яе рост у даходах казны і феадалаў вымушаў сялян абменьваць частку сваёй прадукцыі на грошы. Паселішчы, што ўзніклі пры таргах, развіліся з цягам часу ў своеасаблівыя міжгарадскія гандлёва-рамесніцкія цэнтры. Месгачковыя кірмашы ў агульным таваразвароце ўнутранага рынку краю адыгрывалі значную ролю. У актах на заснаванне новых М. у якасці асн. матывіроўкі звычайна выступала імкненне павялічыць даходы казны. Таму феадалам забаранялася засноўваць прыватныя М. Нават на гаспадарскіх землях яны маглі засноўвацца толькі з дазволу велікакняжацкай адміністрацыі. Статуты Вялікага кн. Літоўскага 1529 і 1566 пад пагрозай секвестрацыі, а ў асобных выпадках і канфіскацыі маёнткаў забаранялі ўстанаўліваць новыя пошліны на таргі, а «Устава на валокі» 1557 — засноўваць прыватныя таргі бліжэй чым за тры мілі ад велікакняжацкіх М. Шляхта, зацікаўленая ў стварэнні М., настойліва дамагалася адмены абмежаванняў і хадайнічала перад вял. князем аб дазволе засноўваць іх без прывілеяў. Толькі Статут Вял. кн. Літоўскага 1588 скасаваў існуючыя абмежаванні.

Большасць М. узнікла ў перыяд з 1588 да пач. 17 ст., хаця буйныя магнаты і раней атрымлівалі велікакняжацкія прывілеі або стваралі іх на сваіх землях самастойна (напр., Уладава, каля 1525). Каб заахвоціць жыхароў перасяляцца ў новыя М., феадалы вызвалялі навасёлаў на пэўны тэрмін ад усіх падаткаў. Так, у Баркалабаве, заснаваным В. Корсакам у 1567 ва урочышчы Бурсы, «прыхожыя людзі» вызваляліся на 12 гадоў ад натуральных і грашовых павіннасцей. Так, М. Лагішын, створанае каля 1569 на «сырым карню», сярод пушчы, атрымала «вольнасць» на 8 гадоў, а Воля Радзівілаўская (цяпер в. Нача), заснаваная кн. Радзівілам у 1568 у пушчы на гасцінцы з Барысава ў Оршу,— на 20 гадоў. Найбольш стараж. групу складалі М., што ўзнікалі адначасова з будаўніцтвам замкаў (Іказнь, 1504, Машчаніца, 1546) або пры замках, пабудаваных раней (Дзісна, каля 1566, Варонічы, 1563—75, Сураж, 1564—65, і інш.). Шэраг М. узнік на царкоўных землях, каля манастыроў (Жыровічы, 1643, Пабойск, 1558, і інш.). Некаторыя М. ўзнікалі на месцы былых вёсак (Моталь, 1554) або сярод глухіх лясоў на «сырым карню» (Дзівін, 1566, Васількава, 1566, Лінск, 1580, Смаляны, 1568, Станькава, каля 1588, і інш.) пры правядзенні валочнай рэформы. З пашырэннем гандлю развівалася сетка дарог, для абслугоўвання якіх і забеспячэння абозаў з таварамі (харчаванне, начлег, рамонт вазоў, абруі і г. д.) таксама закладваліся М. (Мілейчыцы, 1516, Барань, 1566, Старобін, 1618, і інш.). Пры ўтварэнні М. гэтай групы ў прывілеях выразна акрэсліваліся абавязкі жыхароў. У рэвізорскім лісце на заснаванне мястэчка Саколка на месцы аднайм. вёскі, якая стаяла на шляху Гродна — Кнышын, акрамя арганізацыі гандлю жыхарам загадвалася будаваць заезныя дамы. Пэўная колькасць М. узнікла ў сувязі з адкрыццём новых промыслаў. Так, у Полацкім ваяв. каля 1620 заснаваны адначасова рудня і мяст. Слабада. Асобным М. былі ўласцівы адмысловыя віды эканам. дзейнасці. У Вежыцах, напр., былі сканцэнтраваны складскія памяшканні. Тут на пач. 17 ст. на 55 складах зберагаўся і падрыхтоўваўся тавар для адпраўкі ў Рыгу. У Свержані, Дзераўной, Бешанковічах — цэнтрах рачнога суднабудаўніцтва — будавалі стругі і віціны. Развіццё М. на Беларусі працягвалася з рознай інтэнсіўнасцю да сярэдзіны 17 ст. У 16—18 ст. на Беларусі было больш за 300 М.

Тэрытарыяльнае размяшчэнне М. было нераўнамерным. У 15 і 1-й пал. 16 ст. большасць іх прыпадала на зах. землі Беларусі (Навагрудчына, Брэстчына). Ва ўсх. раёнах (Мінскае, Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае ваяв.), дзе эканоміка была развіта слабей, М. пачалі ўзнікаць пазней. У розныя перыяды свайго існавання некаторыя М. занепадалі і пераходзілі ў разрад сёл ці вёсак або ўздымаліся і атрымлівалі статут гарадоў. Але ў асн. сваёй масе яны аставаліся той прамежкавай паміж горадам і вёскай формай паселішча, якая амаль нязменнай датрывала да Кастр. рэвалюцыі. Найбольш буйныя М. мелі магдэбургскае права (Высокае, Крычаў і інш.). Узначальваў адміністрацыю М. войт. Жыхары М. падзяляліся на мяшчан (пераважна гандляры і рамеснікі; плацілі чынш і выконвалі феадальныя павіннасці), гандляроў, карчмароў і рамеснікаў яўрэйскай нацыянальнасці (плацілі чынш), сялян местачковых (адбывалі паншчыну). Яўрэі складалі значны працэнт насельніцтва М. Пасля далучэння Беларусі да Расіі кіравалі М. мяшчанскія ўправы; многія М. былі цэнтрамі валасцей. Характэрная асаблівасць планіроўкі М.— наяўнасць гандлёвай плошчы. У 1-й чвэрці 20 ст. М. пачалі траціць ролю эканам. пасрэдніка паміж горадам і вёскай.

Указам Прэзідыума Вярх. Савета БССР ад 27.9.1938 «Аб класіфікацыі населеных пунктаў Беларускай ССР» да катэгорыі гарадоў абл. падпарадкавання, рабочых і гарадскіх пасёлкаў аднесена 101 населішча гарадскога тыпу. М., якія засталіся па-за сеткай населеных пунктаў гарадскога тыпу, перайшлі афіцыйна ў разрад вёсак. У Зах. Беларусі М. існавалі да 1939.

*У. С. Гуркоў.*



Вышыўка **мярэжкай** (слупок з насцілам).

**МЯ́ТЛІК**, адзенне немаўлят; прамавугольны кавалак тонкага, мяккага льнянога палатна з круглай дзіркай пасярэдзіне для галавы. Звычайна кроілі з вышыванай матчынай кашулі.

**«МЯЦЕ́ЛІЦА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$, $^3/_8$. Тэмп хуткі. Упамінанне пра «М.» вядома ў 1-й палове 17 ст. Мае шмат варыянтаў музыкі, харэаграфіі і прыпевак. Прыпеўкі ў ёй звычайна бойкія паводле тону, ім уласцівы гумар:

А мае ж вы дзяўчаткі,
Пусціце пагрэцца.
На вуліцы мяцеліца,
Няма дзе падзецца.

Варыянт, які бытаваў на Брэстчыне, складаецца з таго, што тры (але не дзве і не чатыры) дзяўчыны, узяўшыся за рукі, то хутка круцяцца кругам, як быццам вальсуюць, то вырабляюць паўкругі павольна, нібыта адвarочваючыся адна ад другой, то, нарэшце, імчацца ўдоўж і ўпоперак пляцоўкі, прыпяваючы песню:

Як пайшоў жа наш каваль
З каваліхаю на баль.
Ды марудна ж ён ідзе,
Ды й дарогі не знайдзе...
Бадай таго каваля
Мяцеліца замяла,
Што ён не маладу
Замарозіў на біду.

Найбольш вядомы варыянт «М.» запісаў П. Шэйн у Віленскай губ.: «Збіраюцца ў пары, біруць у рукі махрачкі, г. зн. ручнікі або паясы, становяцца ў рад. Пачынаецца музыка і напеў, і ў адно імгненне ўзніма-



**«Мяцеліца».** Выконвае фальклорны калектыў з вёскі Мехавое Гарадоцкага раёна.

ецца сапраўдная мяцеліца. Усе пары кідаюцца раптам, першая, якая праскочыла пад ручніком, прапускае другую пару, трэцюю, чацвёртую і г. д., другая, якая праскочыла пад ручніком, прапускае трэцюю пару, трэцяя пара — чацвёртую і г. д. Усё гэта робіцца з неймавернай хуткасцю і ўсімі парамі разам. Трэба здзіўляцца, як зладжана, хутка і нават зграбна адбываецца гэта мітусня...» (Шэйн П. Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю. Спб., 1887. Т. 1, ч. 1. С. 544). «М.» часта выконвалася і з хустачкамі, пра што ўпамінаецца ў ананімнай паэме «Тарас на Парнасе»:

Узяўшы хустачку, Вярпра
Пайшла «мяцеліцу» скакаць.

У Магілёўскай вобл. «М.» зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у выглядзе танцавальнай гульні. Чатыры пары, што стаяць у малюнку крыжа, ныраюць у «вароты», утвораныя з узнятых рук парай, якая стаяла насупраць. Калі музыка раптам абрывае ігру, пара, што апынулася ў цэнтры, хутка разварочваецца і змяняе напрамак руху. «М.» пашырана па ўсёй Беларусі. На сцэне ўпершыню з'явілася ў оперы С. Манюшкі «Ідылія» («Сялянка») на лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча (1852). Яркія пастаноўкі «М.» зроблены А. Ермалаевым у балеце М. Крошнера «Салавей», А. Апанасенкам у Дзярж. ансамблі танца БССР. *Ю. М. Чурко.*

**«МЯЦЕЛАЧКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп хуткі. «М.» — масавы парны танец. Двое выканаўцаў становяцца адзін супраць другога і робяць до-за-до, разыходзячыся на свае месцы ўперад спінамі. Некаторы час прытанцоўваюць (рух — крок з прыстаўленнем) тварам адзін да другога, лёгка сыходзячыся і разыходзячыся (то ўправа, то ўлева). Рукі пры гэтым перакідваюць з боку ўбок, чым імітуюць жэсты таго, хто мяце (прыбірае). Рухі рук суправаджаюцца адпаведнымі паваротамі галавы. Магчыма, таму танец і атрымаў назву «М.». Другая фігура танца — кружэнне танцораў у парах, якія біруцца пад рукі; завяршаецца фігура паваротам кожнага танцора вакол сябе. Выканаўцы ў час танца могуць уключаць у сваю кампазіцыю элементы імправізацыі. Танец зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Івацэвіцкім, Ганцавіцкім і Іванаўскім р-нах Брэсцкай вобл. *А. Л. Варламаў.*

**МЯШЧА́НЕ** (польск. адз. лік mieszczanin гараджанін), падатное саслоўе ў Вял. княстве Літоўскім у 14—18 ст. і ў Расіі ў 1775—1917, якое ўключала розныя катэгорыі гараджан — рамеснікаў, купецтва, дробных гандляроў і інш. На Беларусі тэрмін М. замацаваўся на працягу 15 ст. Да ліку М. залічвалі тую частку рамеснікаў (у т. л. і цэхавыя), купецтва, дробных гандляроў, якая падпарадкоўвалася магдэбургскаму праву. У некаторых гарадах Беларусі (Віцебск, Полацк) уваходзіла таксама земляўласніцкая частка гараджан, якая выконвала вайсковы абавязак — М. конныя, путныя, пасельскія. Яны складалі прывілеяваную групу М., вызваляліся ад падаткаў. Пасля далучэння Беларусі да Расіі на М. бел. гарадоў пашырана заканадаўства Расійскай імперыі. Акты 1775 і 1785 залічылі да М. пасадскіх людзей і частку гараджан, што не ўваходзіла ў купецкія гільдыі, рамесныя цэхі. М. выконвалі рэкрукцую павіннасць, былі абмежаваны ў праве перамяшчацца, да 1863 на іх пашыраліся цялесныя пакаранні. Званне М. спадчыннае, аднак М. папаўняліся за кошт збяднелых купцоў, прыватнаўласніцкіх сялян, якія выкупіліся або былі адпушчаны памешчыкамі. Паводле перапісу 1897 М. і купцоў у бел. губернях было 1800,1 тыс. чал.— 22,4 % насельніцтва; у гарадах (без мястэчак) — 69,5 % насельніцтва. *З. Ю. Капыскі.*

# Н

**«НА ЛО́ДЦЫ»**, дзіцячая гульня. Два хлопчыкі садзяцца на лаўку адзін да аднаго тварам. Трэці забірае ў іх шапкі і выходзіць з імі ў кухню ці сені, потым вяртаецца і аддавае гульцам шапкі. Адзін з тых, хто сядзіць на лаўцы, раз за разам нахіляецца ўперад (вяслуе) і прыгаворвае: «Едзем мы на лодцы.// Будзем умывацца.//Шапкамі мяняцца.// Шапкамі ўціраца». Другі хлопчык паўтарае тыя ж рухі і словы першага. Яны мяняюцца шапкамі і выціраюць імі твар. А як вытруцца, дык самі сябе не могуць пазнаць, астатнія ж удзельнікі смяюцца: бо ў хлопцаў (іншы раз і ў абодвух) твары чорныя, таму што той, хто хадзіў з шапкамі ў кухню, вымазаў іх там сажай. Звычайна на гульню запрашаюць навічкоў. А той, хто ведае яе, іншы раз наўмысна дно сваёй шапкі вымажа дома, бо калі брудная шапка сябра трапіцца яму, дык такая ж пападзецца і сябру. *В. Дз. Ліцвінка.*

**«НА РО́СУ»**, старажытны карагод. Выконвалі яго на Юр'я, каля засеянага аўсом поля (лічылі, што гэта забяспечыць добры ўраджай). Часта карагод выконвалі толькі мужчыны: выстройваліся ланцужком і з хлебам у руках абыходзілі вакол кожнага поля. Часам удзельнікі карагода качаліся па зямлі, што нібыта рабіла яе больш ураддівай. У в. Крытышын Іванаўскага р-на абавязковым удзельнікам карагода быў «куст» — убраная зялёнымі галінкамі дзяўчына, якая ішла наперадзе карагода ў суправаджэнні двух дзяўчын, з якіх адна несла хлеб, а другая — сподак. Калі падыходзілі да поля, дзяўчына тройчы праводзіла сподкам па аўсе: быццам бы збірала з каласоў расу і потым «стрэсвала» яе ў фартух «кусту», які раскідваў яе зноў па полі (пры гэтым дзяўчына, якая выконвала ролю «куста», кожны раз паварочвалася вакол сябе). Часта карагод суправаджаўся песнямі, напр.:

Пожжу волы, ды на раннюю росу,
Каго люблю — пазнаю па голасу.
Каго я люблю, той стаіць за плячыма...

Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Іванаўскім р-не. *А. Л. Варламаў.*

**«НА РЭ́ЧАНЬКУ»**, гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Выконваецца пад рус. нар. песню «Выйду я на рэчаньку». На Беларусі пашырыўся ў канцы 19 ст. спачатку ў гарадскім, потым у вясковым асяроддзі. Выконваецца парамі па крузе; падтрымка ў пары самая разнастайная — рукі злучаны накрыж ці далонь у далонь, хлопец можа ў правай руцэ трымаць перад сабой правую руку дзяўчыны, а злучаныя левыя рукі палажыць на левае плячо партнёркі і інш. Танец складаецца з блокаў рухаў, якія паўтараюцца некалькі разоў запар. Асноўны блок рухаў уключае простыя і прыстаўныя, акцэнтаваныя крокі, вярчэнне дзяўчыны пад рукой хлопца або пар у польцы-вальсе, до-за-до і інш. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК па ўсёй Беларусі. *А. Л. Варламаў.*

**НА́БАДРЫ**, набедрыкі, набэдрыкі, частка *вупражы*; рамяні, прымацаваныя да *хамута*. Надзяваліся на каня пры запраганні яго ў аглоблі. Фіксавалі стацыянарнае становішча хамута на шыі каня і забяспечвалі магчымасць тармажэння ці задняга ходу павозкі. У выязной вупражы рабіліся з упрыгожаннямі — узорным швом, бліскучымі металічнымі накладкамі, кутасамі. *В. С. Цітоў.*

**НАБІВА́НКА**, спосаб аздаблення тканіны ўзорам з дапамогай дошкі-клішэ з рэльефным малюнкам; тканіна, аздобленая такім спосабам; від народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Лакальныя назвы набойка, выбойка. Выкарыстоўвалася для вырабу свецкага і культавага адзення, набіўных дываноў, фіранак, посцілак, сурвэтак, абрусаў і інш.

Вядома з 3-га тыс. да н. э. ў Індыі. На Беларусі існавала са стараж. часоў, была развітым відам мастацтва ў 12 ст. Найбольшага росквіту дасягнула ў 16—17 ст. у сувязі з дзейнасцю рамесніцкіх цэхаў. Цэнтрамі вырабу Н. у 19 ст. былі Віцебск, Магілёў, Полацк, Орша,









Узоры **набіванак.**

Бабруйск, Веліж (зараз Смаленская вобл.), Невель (зараз Пскоўская вобл.), быў пашыраны ў вёсках Магілёўшчыны, Гомельшчыны і асабліва Віцебшчыны. У канцы 19 ст. рамяство заняпала ў сувязі з фабрычнай вытворчасцю набіваных тканін. У пач. і сярэдзіне 20 ст. Н. выраблялі асобныя майстры.

Н. рабілі двума спосабамі: дошку з афарбаваным плоскім рэльефным малюнкам клалі на тканіну і прыціскалі ўдарам драўлянага малатка, у выніку каляровы малюнак адбіваўся на натуральным неафарбаваным фоне (набойка); на афарбаваную дошку з контррэльефным малюнкам клалі тканіну і прыціскалі валікам, у выніку атрымлівалі неафарбаваны малюнак на каляровым фоне (выбойка; спосаб пашыраны да 18 ст.). Звычайна Н. рабілі ў адзін колер, пайчасцей сіні (таму набойшчыкаў часта называлі сінельнікамі). Рысунак набівалі і на афарбаваную тканіну (крашаніна). Звычайна выкарыстоўвалі алейныя фарбы. У 19 ст. быў пашыраны спосаб «набойкі глінай»: тканіну з нанесеным белай глінай, купарвасам, вішнёвым клеем і інш. рысункам фарбавалі (пераважна ў сіні колер), пасля чаго гліну і інш. адмывалі, у выніку чаго атрымлівалі неафарбаваны рысунак на сінім фоне. Пры вырабе рознакаляровых Н. для кожнага колеру рабілі асобную дошку, якую цалкам выразалі з дрэва. З 19 ст. для перадачы тонкіх ліній і кропак разьбяны ўзор дошак сталі чаргаваць з металічным (тонкімі пласцінамі і цвікамі, набітымі ў дошку), што давала магчымасць ствараць тонкі разнастайны рысунак. У зах. раёнах Беларусі ў канцы 19 — пач. 20 ст. для Н. выкарыстоўвалі штампікі з нескладаным рэльефным геаметрычным узорам (разеткі, крыжыкі, елачкі, галінкі і інш.), выразаныя з бульбы або рэпы.

Рысунак бел. Н. лаканічны, найчасцей закампанаваны «ў клетачку», «у сетку», «у шлячкі». Найбольш пашыраны геам. (зорачкі, кругі, клеткі) і стылізаваны раслінны арнамент (кветкі васілька, рамонка, цюльпана, бэзу, пупышкі вярбы, лісты дуба, рабіны, ліпы, хвалістыя сцяблінкі і інш.). Сустракаюцца заамарфныя матывы (выявы аленя, каня, пеўня, фантастычных птушак). Бел. Н. харак-

тэрна выкарыстанне ў адным рысунку невялікай колькасці дэкаратыўных элементаў, што пры рапортным паўторы стварала гармонію форм і рытму. У цэлым бел. Н. стылістычна звязана з інш. відамі нар. мастацтва (ткацтва, вышыўка, размалёўка).

Калекцыі бел. набойных дошак з геам., раслінным, зааморфным арнаментам, сабраныя ў канцы 19 ст. Е. Р. Раманавым, знаходзяцца ў Музеі этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе, Віцебскім абл. краязнаўчым музеі. Узоры набіваных маст. тканін зберагаюцца ў фондах Музея стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР, Заслаўскім музеі рамёстваў і нар. промыслаў. *Я. Ф. Шунейка.*

**НАБІЛІЦЫ**, састаўная частка ткацкага стану (*красён*); прыстасаванне, якое разам з *бёрдам* служыла для прыбівання ўтку. Лакальная назва набёрдкі. Уяўляюць сабой 2 злучаныя драўляныя пласціны з паглыбленнямі па даўжыні, у якія ўстаўлялася бёрда. Верхняя пласціна Н. была рухомай, магла апускацца і падымацца.

**НАВАГРУ́ДСКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Панямонні. Бытаваў у 19 — пач. 20 ст. ў Навагрудскім, Карэліцкім, Слонімскім і Лідскім р-нах. Аснову летняга жаночага гарнітура складалі кашуля-гарсоўка, андарак, фартух, гарсэт або бурносік. Кашулю-гарсоўку кроілі з гесткай, з прамым або сабраным на каўнерац рукавом, вузкім стаячым, утвораным брыжкамі каўняром або без каўняра. Дробназўорысты геаметрычны арнамент вышыўкі чырвонымі, чорнымі баваўнянымі ніткамі кампанаваўся ў вузкія паскі і размяшчаўся ўздоўж швоў злучэння гесткі са станам, па лініі разрэзу пазухі, на каўняры, нізе рукавоў. Андарак у клетку буйнога рапорту (найчасцей зялёна-блакітнага, зялёна-сіняга ці фіялетавага колераў) прасавалі ў буйныя складкі, падпяразвалі вузкім дэкаратыўным поясам. Аднаполкавы фартух кроілі са скругленым нізам, аздобленым фальбонай. Гарсэт з чорнай шарсцянкі меў баску ў выглядзе 6—8 клінкоў. Кароткі бурносік з белага валенага сукна шылі з маляўнічымі складкамі на спіне. Галаўныя ўборы — намітка або чорны ці чырвоны з круглымі вушкамі і ўзорыстымі шаўковымі стужкамі-завязкамі каптур, аздоблены па краях вушак каляровай абламоўкай, парчовай тасёмкай, вышыўкай. Дзявочы галаўны ўбор — хустка з прышпіленай кветкай ці пяром. Шыю ўпрыгожвалі пацеркамі, стужкамі. Мужчынскае адзенне складалі кашуля, нагавіцы, камізэлька (з сіняй ці чорнай шарсцянкі з меднымі гузікамі, стаячым каўняром), касынка-каляшыйка. Галаўныя ўборы — саламяныя капелюшы, фуражкі. Верхнім адзеннем былі бурнос, сярмяга, капота, спанцэрка, кажух. *М. Ф. Раманюк.*

**НАВА́РЫ**, старажытныя плямёны, якія, на думку некаторых гісторыкаў, былі продкамі славян; тое, што і *неўры*.

**НАВАСЕ́ЛЛЕ**, уваходзіны, улазіны, сямейная ўрачыстасць з нагоды перасялення ў новы дом (хату, кватэру). На Н. запрашаюць родных, сваякоў, суседзяў, сяброў. Віншуюць гаспадароў, госці ўручаюць ім падарункі. У вёсцы раней прыносілі з сабой зерне (пераважна жыта), печаны хлеб, сала, каўбасы і інш. прадукты. У наш час дораць прамысловыя тавары, прадметы нар. промыслаў. Пераступаючы парог, некаторыя госці кідаюць на падлогу манеты, жадаючы такім чынам дабрабыту ў доме. Перад засяленнем (іншы раз наводле традыцыі за суткі да пераезду) многія гаспадары пускалі ў хату ката ці пеўня, якія выступалі як абярэгі ад хвароб і смерці членаў сям'і. Элементы Н.— агледзіны жылля, святочнае застолле, танцы і інш. забавы. *І. М. Браім.*



**Навагрудскі строй.** Маладуха ў верхнім адзенні. Навагрудскі раён. Пачатак 20 ст.

**НАВО́І**, пярэдні і задні (для тканіны і для асновы) валікі ў *кроснах*. Н. для асновы на канцах меў 2 кругі для затрымання нітак і патаўшчэнне (злева), Н. для палатна — толькі патаўшчэнне (справа). У іх рабілі скразныя адтуліны, у якія ўстаўлялася палачка-прытужальнік для замацавання Н., адвівання і раўнамернага нацяжэння асновы, навівання палатна.



Жанчына ў летнім адзенні. Вёска Красная Лідскага раёна. 1920-я г.

**НАВУКО́ВА-ДАСЛЕ́ДЧАЯ МАСТА́ЦКА-ЭКСПЕРЫМЕНТА́ЛЬНАЯ ЛАБАРАТО́РЫЯ** Беларускага гандлёва-вытворчага аб'яднання народных мастацкіх промыслаў Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР (НДМЭЛ). Заснавана ў 1976. Даследуе нар. дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі, вядзе мастацка-эксперыментальную работу па адраджэнню традыцыйных мастацкіх рамёстваў і промыслаў, стварае на гэтай аснове ўзоры сучасных мастацкіх вырабаў, вядзе таксама навукова-метадычную работу па развіццю творчасці мастакоў і май-

строў прадпрыемстваў мастацкіх промыслаў, прапагандуе іх дасягненні, наладжвае выстаўкі. Аддзелы: мастацтвазнаўства, мастацкай апрацоўкі дрэва і мясцовых відаў сыравіны, ткацтва, праектавання строчана-вышытых і трыкатажных вырабаў. У склад лабараторыі ўваходзіць Дом нар. мастацкіх промыслаў, дзе захоўваюцца лепшыя ўзоры, створаныя на прадпрыемствах аб'яднання. У 1978—88 лабараторыяй праведзены экспедыцыі па рэспубліцы з мэтай даследавання традыцый і сучаснага стану нар. промыслаў (сабраныя матэрыялы складаюць метадычны фонд і сістэматызаваны ў картатэцы). На аснове гэтых матэрыялаў ствараюцца калекцыі сучаснага адзення, у якіх творча выкарыстоўваюцца прыёмы крою і аздаблення нар. адзення розных рэгіёнаў Беларусі, адраджаюцца традыцыйныя прыёмы ткацтва і пляцення паясоў, развіваюцца традыцыі разьбы па дрэве, размалёўкі па дрэве, тканіне, шклу, пляцення з саломы, лазы, аплікацыі саломкай і інш. Значная частка распрацаваных узораў выпрацоўваецца на прадпрыемствах аб'яднання. Вырабы мастакоў лабараторыі дэманстраваліся на выстаўках «Традыцыі і сучаснасць» (1983) у Дзярж. музеі этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе, «Мастакі — промыслам» (1986), «Пераемнасць» (1989) у Раўбіцкім музеі бел. нар. мастацтва. *В. А. Лабачэўская.*

**НАГАВІ́ЦЫ**, штаны, адна з асноўных частак традыцыйнага мужчынскага адзення беларусаў. Называлі таксама порткі. Шылі з адпатоннага ці шарачковага палатна, са зрэбнай або паўсуконнай тканіны, зімовыя — з цёмнага сукна (суконнікі). Вузкія калошы злучалі ў верхняй частцы ромбападобнай устаўкай; зашпіляліся спераду. Былі каўняровыя на поясе (каўнер), які зашпільваўся на калодачку-біргельку ці гузік, і бескаўняровыя на матузку. Калошы ўнізе спадалі свабодна або абкручваліся анучамі і аборамі лапцей. Кашулю насілі паверх Н. і падпяразвалі поясам. У канцы 19 ст. белыя палатняныя Н. сталі сподняй адзежынай. У 20 ст. традыцыйныя Н. выцеснены фабрычнымі вырабамі агульнаеўрапейскага крою.

*М. Ф. Раманюк.*

**НАДЗЕ́ЖДЗІН** Мікалай Іванавіч [5 (17).10.1804, пас. Белаомут Луховіцкага р-на Маскоўскай вобл.— 11(23). 1. 1856], рускі крытык, этнограф, гісторык, журналіст. Скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію (1824). Прафесар Маскоўскага ун-та (1831—35). З 1831 выдаваў час. «Телескоп», у 1836 за публікацыю «Філасафічнага пісьма» П. Чаадаева сасланы. У 1843—56 рэдактар «Журнала Министерства внутренних дел», адначасова з 1848 старшыня аддзялення этнаграфіі Рус. геагр. т-ва. Распрацоўваў пытанні этнаграфіі славян. Беларусі прысвяціў артыкул





Селянін у **нагавіцах.** Піншчына. Пачатак 20 ст.

**Нагавіцы.** Крой: выгляд спераду і ззаду.

«Паўночна-Заходні край імперыі ў мінулым і сучасным выглядзе» (Журнал Министерства внутренних дел. 1843. Кн. 2, 3).

*Тв.:* Литературная критика; Эстетика. М., 1972. *Г. А. Каханоўскі.*

**НАДЗЕ́Л**, участак зямлі, які атрымліваў селянін паводле сялянскай рэформы 1861. Памешчыцкія сяляне, што выходзілі з прыгоннай залежнасці, атрымлівалі ў пастаяннае карыстанне зямельныя Н. на ўмовах выкупу іх на працягу 49 гадоў. У сувязі з паўстаннем 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве царскі ўрад увёў абавязковы пераход на выкуп у Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і зах. паветах Віцебскай губ. з 13.5.1863, у Магілёўскай і ўсх. паветах Віцебскай губ.— з 13.1. 1864. У Віленскай губ. былыя прыгонныя сяляне атрымлівалі ў сярэднім на рэвізскую душу 3,7 дзесяціны, дзяржаўныя — 5,9; у Гродзенскай — адпаведна 3,6 і 5,5; у Віцебскай — 4,1 і 6, у Мінскай — 5,1 і 6,6, у Магілёўскай — 4,8 і 5,7, што не забяспечвала мінімальных патрэб сялянскага двара. Надзельная зямля перадавалася ў абшчыннае ці падворнае ўладанне. У Магілёўскай губ. абшчыннае ўладанне складала 79 % зямлі, у Віцебскай — 44,6 %. У 1905 сяляне Беларусі валодалі 1613,5 тыс. дзесяцін зямлі, купленай за грошы пасля рэформы, але 82,1 % гэтай зямлі быў у кулакоў.

**НАДКО́СНІК**, вясельны чын з боку маладой, звычайна яе брат або блізкі сваяк. Ён прыводзіў маладую на ручніку на *пасад*, расплятаў ёй касу і браў за яе выкуп у жаніха. Н. суправаджаў маладую да шлюбу і трымаў над ёю вянок у час вянчання. Праз гадзіну-дзве пасля ад'езду маладых услед за імі да маладога разам з іншымі сваякамі маладой ад'язджаў і Н. (яны везлі пачастунак і пасцель маладых). Пасля гэтага Н. страчваў свой чын і станавіўся адным з *вячэрнікаў*. Калі маладая аказвалася не цнатлівай, сваякі маладога надзявалі на шыю Н. хамут.

*Л. А. Малаш.*

**«НАЖНІ́ЦЫ»**, традыцыйны танец. Лакальныя назвы «Нажычкі», «Ножні». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Раней «Н.» выконвалі пераважна юнакі і дзяўчаты, пазней — і дзеці. Мае шмат харэаграфічных варыянтаў. У адным з іх танец кругавы па форме, выконваецца супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі. Зафіксаваны ў Лельчыцкім р-не Гомельскай вобл. Сустракаецца кадрыльны тып «Н.», які таксама мае шмат варыянтаў. У розных мясцовасцях выконваюць розную колькасць кален (ад 4 да 8), аднак у кожным пэўным варыянце прытрымліваюцца традыцыі. У танцы ўдзельнічаюць 4, 6, 8 пар, якія размяркоўваюцца ў дзве лініі — адна супраць другой. Найбольш часта ўжываюцца такія харэаграфічныя малюнкі, як гарызантальныя, «косыя» — дыяганальныя пераходы туды-сюды (радзей сустракаецца круг) то па аднаму, то парамі. Кожны малюнак паўтараецца па чарзе ўсімі выканаўцамі. Як завяршэнне калена (або яго часткі) выконваюць павароты пар (парамі) на месцы. Усе калены як правіла выконваюць без перапынку і аб'яў. Асноўны рух — просты шаркаючы крок. У склад харэаграфічнай лексікі ўваходзяць адзіночныя, двайныя, трайныя прытупы. Такі варыянт пашыраны на Усх. Палессі. Музычны варыянт зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Ельскім р-не Гомельскай вобласці. *М. А. Козенка.*

**НАЖНІ́ЦЫ СПРУЖЫ́ННЫЯ**, прылада для стрыжкі авечак. Дзве жалезныя пласціны з асіметрычна заточанымі краямі (лязом), авальна загнутыя і злучаныя паміж сабой на адным канцы; шырыня ходу (развод) рэгулюецца ха-

муцікам ці шнурком, што надзяваліся на Н. с. Вядомы па археалагічных знаходках заходнярускіх гарадоў (Полацка, Віцебска, Мінска, Бярэсця і інш.) ячшэ ў 10—11 ст. *В. С. Цітоў.*

**НАЗВА́НЫЯ БАЦЬКІ́**, дзеючыя асобы ў сацыялістычным абрадзе ўрачыстай рэгістрацыі нованароджаных. Называюцца таксама ганаровыя бацькі, нарачоныя бацькі. Вядомы з 1970-х г. Н. б.— блізкія сябры сям'і нованароджанага. Прымаюць удзел у выхаванні свайго названага сына або дачкі. У час рэгістрацыі нованароджанага Н. б. уручаецца «Пасведчанне-памятка».

**НАЗІНА** Іна Дзмітрыеўна (н. 31.10.1937, Мінск), беларускі савецкі этнамузыказнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1979). Скончыла Бел. кансерваторыю па класу фартэпіяна (1961). Выкладала ў Магілёўскім (1961—63) і Мінскім (1963—68) муз. вучылішчах. З 1970 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1981 ст. навук. супрацоўнік). Навуковыя працы па праблемах бел. фартэпіяннай музыкі. Асноўную ўвагу аддае збіранню (ва ўсіх этнагр. рэгіёнах Беларусі запісала больш за 3 тыс. нар. найгрышаў — зб. «Беларускія народныя найгрышы», 1986), даследаванню (інструментарый, выканальніцтва, генезіс, грамадскае функцыяніраванне, стыль нар. музыкі) і прапагандзе (этнагр. канцэрты, тэле- і радыёперадачы) аўтэнтычных форм бел. інструментальнага фальклору. Аўтар шэрагу атыкулаў пра бел. нар. інструменты для «New groves dictionary of music and musicians» («Новы слоўнік музыкі і музыкантаў Грова», т. 2. 1984). Падрыхтавала інструментальную частку грамплаcцінкі «Музычны фальклор Беларускага Палесся», выд. ЮНЕСКА у серыі «Музычны фальклор народаў свету» (1982). Сабраныя ёй інструменты экспануюцца ў Музеі старажытнабел. культуры ІМЭФ АН БССР і Музеі музычнай культуры імя М. І. Глінкі (Масква).

*Тв.:* Белорусский фортепианный концерт. Мн., 1977; Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые. Мн., 1979; Белорусские народные музыкальные инструменты: Струнные. Мн., 1982.

*Т. Б. Варфаламеева.*

**НАЙМІ́ТЫ**, катэгорыя насельніцтва ў 16—18 ст., асноўным заняткам якога была праца па найму. Называліся таксама людзі работныя. Складаліся з сялян, сельскіх і гарадскіх рамеснікаў, якіх наймалі феадалы для работы ў фальварках, на прамысловых прадпрыемствах (рудні, цагельні, смалакурні), купцоў, цэхавых майстроў. Ва ўмовах феадалізму пераважаў часовы найм, сезонная праца ў феадала: з канца 16 ст. найм стаў распаўсюджанай формай эксплуатацыі. *З. Ю. Капыскі.*

**НАКРО́П**, валасяное крапіла для апырсквання (скраплення) вадою пчол пры лоўлі раёў. Апырсканы рой змяталі птушыным крыльцам або аграбалі ў *раёўню* кузаробам — невялікім бяроставым ці лубяным чарпачком. Пры адсутнасці Н. ўжывалі маленькі венік. Бортнікі карысталіся *сікаўкай.*

**НАЛІ́СНІКІ**, тонкія бліны з пшанічнай мукі. Называлі таксама налеснікі. Муку, часам падмяшаўшы трохі крухмалу, раскалочваюць у вадзе або малацэ на рэдкае цеста (на бліны разводзяць гусцей), дадаюць яйцо. Каб Н. былі больш пышнымі і мяккімі, яечны бялок збіваюць на пену і, дадаючы патроху, падмешваюць у цеста. На патэльню цеста наліваюць тонкім слоем, каб толькі закрыць яе дно. У Н. загортваюць (завіваюць) тварог, мак, мятыя ягады, мёд, варэнне, скваркі, у наш час — фарш з варанага мяса. Часта Н. спажываюць без начынкі: перагінаюць іх у чатыры столкі і складваюць у макацёр ці каструлю, заліваюць смятанай або маслам і ставяць у печ (у лёгкі дух); ядуць таксама з мёдам, варэннем. Вядомы на Беларусі амаль паўсюдна. На Слаўгарадчыне Н. называлі тоўстыя бліны з хлебнага цеста. Тонкія бліны з аўсянай мукі ў Докшыцкім р-не называюць цадовікі. *Г. Ф. Вештарт.*



Жанчына ў **намітцы.** Вёска Яўсімавічы Кобрынскага раёна. 1920-я г.



**Нажніцы спружынныя.**

**НА́МІТКА**, даўні галаўны ўбор замужніх жанчын на Беларусі. Лакальныя назвы павойнік, сярпанка, плат, завівала. Складаўся з уласна Н.— тонкага белага кужэльнага палатна (ручніка) шыр. 30—60 см, даўж. ад 2,3—2,6 да 5 м, абматанага паверх чапца, і тканкі (валік з кудзелі, абшыты палатном, на які накручвалі валасы). Вядома каля 30 спосабаў абмотвання. Часам абодва канцы завязваліся ззаду (*магілёўскі строй*), над ілбом ці па баках (*капыльска-клецкі строй*); найчасцей адзін канец праходзіў пад барадой і драпіраваўся над плячом, а другі спадаў на спіну. Часам Н. замацоўвалі доўгімі шпількамі, тады яе можна было здымаць, як шапку. Канцы Н., іншы раз і край над ілбом аздаблялі арнаментам (вышыўка ці натыканне), карункамі, мохрыкамі (пухавіцкі, маларыцкі, кобрынскі строі, гл. адпаведныя арт.). Святочную Н. аздаблялі зелянінай, букетамі штучных ці жывых кветак, папяровым веерам (*ляхавіцкі строй*), пер'ем (кобрынскі строй), маляўнічай каробачкай з двума «рожкамі» — пукамі фарбаванага пер'я (касцюм свацці ў маларыцкім строі). Першы раз у Н. ўбіралі на вяселлі (абрад *завівання)*, пасля чаго жанчына не выходзіла на людзі без яе. На Палессі бытавала да 1930-х г. Іл. гл. таксама ў арт. *Галаўныя ўборы.*

*М. Ф. Раманюк.*

**НА́РВЕНСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў 4—3-м тысячагоддзях да н. э. насялялі тэр. Пауд.-Усх. Прыбалтыкі і Паўн. Беларусі. Насельніцтва займалася рыбалоўствам, паляваннем і збіральніцтвам, у канцы неаліту зараджаліся земляробства і жывёлагадоўля. Паселішчы размяшчаліся на берагах вадаёмаў, пры вытоках або ўпадзенні невялікіх рэчак. Жытлы наземныя, чатырохвугольныя ў плане, з двухсхільнай страхой. Сцены рабілі з вертыкальна ўбітых у зямлю завостраных калоў. Пасярэдзіне жытлаў, размяшчаліся адкрытыя агнішчы на пясчанай падсыпцы. Плямёны Н. к. выраблялі вялікія вастрадонныя гаршкі з плаўна выступаючым корпусам і прамымі венчыкамі, краі якіх нярэдка патаўшчаліся і скошваліся ўсярэдзіну. Паверхня пасудзін аздаблялася арнаментамі з грабеньчатых і вусеневых адбіткаў, насечак, нарэзаў у выглядзе гарызантальных пасяскоў, ялінак, зігзагаў, ромбаў, якія часам групаваліся ў асобныя зоны. У арнаментацыі прасочваюцца стылізаваныя выявы раслін, змей, птушак. Сярод упрыгожанняў — падвескі з прасвідраваных зубоў жывёл і бурштыну. Некаторыя касцяныя і рагавыя вырабы (наканечнікі стрэл, матыкі) упрыгожваліся наразным арнаментам з паралельных ліній, зігзагаў, косай сеткі.

*М. М. Чарняўскі.*

**НАРМА́НЫ** (ад скандынаўскага northman паўночны чалавек), скандынавы, удзельнікі гандлёва-грабежніцкіх і заваявальных паходаў у Еўропе ў канцы 8— сярэдзіне 11 ст. Ва ўсх. славян называліся варагамі, у самой Скандынавіі — вікінгамі. Атрады Н. складаліся пераважна са шведаў, нарвежцаў, данаў, уваходзілі таксама фіна-угры, балты, славяне і інш. У 9 ст.

захапілі Паўн.-Усх. Англію, у 10 ст.— Паўн. Францыю. Дасягнулі Паўн. Амерыкі. У рускіх крыніцах упершыню ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў», дзе змешчана легенда пра «запрашэнне варагаў». Легенда з'явілася асновай для ўзнікнення ў 18 ст. нарманскай тэорыі паходжання дзяржавы ва ўсх. славян. Яе стваральнікі (нямецкія гісторыкі Г. З. Баер, Г. Ф. Мілер, А. Л. Шлёцэр) і прыхільнікі лічылі, што Стараж.-руская дзяржава была заснавана ці захоплена Н. (варагамі) у 9 ст., яны склалі кіруючы клас феадалаў, княжацкую дынастыю і прынеслі нават назву Русь. Супраць нарманскай тэорыі ў 18—19 ст. выступалі М. В. Ламаносаў, Дз. І. Іілавайскі, С. А. Гедэонаў, У. І. Ламанскі і інш. Яны даказвалі, што ўдзел Н. (варагаў) у гісторыі ўсх. славян быў мінімальны. Савецкія (Б. Дз. Грэкаў, М. М. Ціхаміраў, Б. А. Рыбакоў, Т. Н. Аляксеева і інш.) і замежныя (Г. Лаўмянскі, К. Тымянецкі) даследчыкі на падставе летапісных, археалагічных, тапанімічных, антрапалагічных і інш. матэрыялаў даказалі, што ўзнікненне Стараж.-рускай дзяржавы абумоўлена працэсамі ўнутранага сацыяльна-эканам. і грамадска-паліт. развіцця славян. Паяўленне Н. адбылося, на іх думку, у час, калі групы ўсх. славян — *палачане, дрыгавічы, драўляне*, паляне, ільменскія славяне і інш.— мелі свае сацыяльна-паліт. і тэрытарыяльныя аб'яднанні («княжанні»), класавае грамадства, гарады, рамёствы і інш. На землях Сярэдняга Падняпроўя, паводле візантыйскіх, арабскіх і інш. крыніц 8— пач. 9 ст., было пашырана тапанімічнае і этнічнае вызначэнне «Рось», «Рос», якое ў 9—11 ст. трансфармавалася ў палітонім і этнонім «Русь» (магчыма, пад уплывам паўн. груп усх.-слав. насельніцтва, напр. Наўгародчыны, тапаніміка якой багата назвамі з коранем рус). Адносіны паміж усх. славянамі і Н. былі складанымі і насілі неаднолькавы характар. У 9—10 ст. мела месца ваенная экспансія на ўсх.-слав. землі. Летапісы паведамляюць, што некаторы час *крывічы*, славяне і інш. плацілі дань варагам. У той жа час некаторыя ўсх.-слав. землі запрашалі варажскіх князёў (конунгаў) да сябе на княжанне (напр., у 10 ст., згодна летапісам, Рагвалода ў Полацк і Тура ў Тураў). У 10—11 ст. Н. наймаліся на службу да рускіх князёў, удзельнічалі ў сумесных паходах на Візантыю, Хазарыю, выступалі ў ролі паслоў, займаліся гандлем на шляху «з варагаў у грэкі». Цесныя сувязі бел. зямель з краінамі Скандынавіі і Паўн. Еўропы былі абумоўлены іх геаграфічным становішчам. Ад Балтыйскага (Варажскага) мора па Зах. Дзвіне праз паўн. бел. землі да Дняпра ішоў найбольш кароткі шлях ад скандынаўскіх гандлёвых цэнтраў ва Усх. і Паўд. Еўропу. У скандынаўскіх сагах 9—11 ст. адным з буйных усх.-слав. гандлёвых цэнтраў названы Полацк. Эканам. сувязі Полацка (таксама Віцебска, Смаленска) са Скандынавіяй і Прыбалтыкай існавалі і ў 12—15 ст., што абумовіла пранікненне на Беларусь скандынаўскіх мер вагі і аб'ёму (беркавец, барыл і інш.), розных рэчаў ваеннага і гандлёвага прызначэння, некаторых элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры.

*І. У. Чаквін.*

**«НАРО́ДНА ТВО́РЧІСТЬ ТА ЕТНОГРА́ФІЯ»**, украінскі навуковы часопіс, орган Ін-та мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі АН УССР і Мін-ва культуры УССР. Выходзіць з 1957 у Кіеве на ўкр. мове (у 1957—63—4 нумары ў год, з 1964—6). Асвятляе пытанні гісторыі і тэорыі культуры, побыт, звычаі, мастацкую і вусна-паэтычную творчасць укр. і інш. народаў. На старонках часопіса друкуецца таксама бел. этнографы і фалькларысты. Побыту, абрадам і святам беларусаў прысвечаны артыкулы М. Я. Грынблата «Рысы грамадскага побыту беларускіх сялян другой паловы XIX—пачатку XX ст.» (1957, № 4), В. М. Іванова «Рысы новага ў побыце працоўных Савецкай Беларусі» (1959, № 1), Л. А. Малчанавай «Ежа і дамашняе начынне беларускага сялянства да рэвалюцыі» (1960, № 1), А. М. Камарова «З гісторыі ўзнікнення «акцябрын» і «чырвонага вяселля» ў Беларускай ССР» (1962, № 2), Г. І. Дулебы «Сучасныя святы ў гаспадарчым побыце беларускіх калгаснікаў» (1965, № 6), Э. Р. Сабаленкі «Фарміраванне сучасных унутрысямейных адносін у беларускай вёсцы» (1974, № 6), В. К. Бандарчыка «Сучасныя культурна-бытавыя працэсы ў беларускай вёсцы» (1977, № 4), Г. А. Барташэвіч «Абрад «ваджэння стралы» на Беларусі» (1983, № 4), Г. І. Кухаронак і З. П. Расінскай «Абраднасць пры родах на Палессі» (1985, № 6). У асобных публікацыях апісаны бел. нар. адзенне [Г. І. Дулеба «Адзенне беларускіх сялян (канец XIX — пачатак XX ст.)», 1971, № 2; Л. А. Малчанава «Галаўныя ўборы беларускіх сялян (XIX — пачатку XX ст.)», 1969, № 6], прылады працы [Г. М. Курыловіч «Спосабы і прылады апрацоўкі лёну ў беларусаў (канец XIX—пачатак XX ст.)», 1976, № 5], лекавыя сродкі (Л. І. Мінько «З беларускай народнай медыцыны», 1968, № 6), промыслы (Н. І. Буракоўская «Пра бурлацтва на Беларусі», 1980, № 5), бел. нар. прыкладное мастацтва [Д. С. Трызна «Беларускія габелены ў грамадскім інтэр'еры», 1977, № 4; М. М. Шкут «Мастацтва беларускага Палесся», 1978, № 2; Г. М. Курыловіч «Традыцыйныя беларускія народныя тканіны (канец XIX — пач. XX ст.)», 1978, № 4; А. К. Лявонава «Беларуская народная драўляная скульптура», 1980, № 1; В. Я. Фадзеева «Агульныя і рэгіянальныя асаблівасці вышыўкі беларускага Палесся», 1985, № 1; М. С. Кацэр «Народны арнамент мастацкага ткацтва і вышыўкі Беларусі», 1979, № 3]; фальклор (А. С. Фядосік «Беларускі вясельны фальклор», 1975, № 5). Бел. л-ра ў яе адносінах да праблем этнаграфіі і фалькларыстыкі — тэма артыкулаў «Якуб Колас як фалькларыст і этнограф» М. І. Базарэвіча (1962, № 4), «Этнаграфічныя элементы ў беларускай літаратуры» Сабаленкі (1967, № 4). Этнагенез і этнічная гісторыя беларусаў разглядаюцца ў публікацыі Бандарчыка «Да праблемы этнагенезу беларусаў і крытыка тэорыі «балцкага субстрату» (1976, № 1), І. У. Чаквіна «Палессе і яго лакалізацыя (па гістарычных, гістарыяграфічных і палявых матэрыялах)» (1984, № 2). Часопіс асвятляе пытанні ўкр.- бел. сувязей у галіне матэрыяльнай і духоўнай культуры, мастацка-стылістычнай агульнасці ўсх.-слав. фальклору [А. М. Нартоўская «Агульныя рысы ў матэрыяльнай культуры беларусаў і ўкраінцаў (на матэрыялах інтэр'ера ся-



**Народнае дойлідства.** Хата ў вёсцы Вензавец Дзятлаўскага раёна.

лянскага жытла канца XIX — пачатку XX ст.)», 1987, № 5; В. М. Вакураў «Вобраз каліны ў народнай песеннасці ўсходніх славян», 1987, № 6, і інш.]. Змяшчаюцца таксама рэцэнзіі на бел. выданні па этнаграфіі і фальклору, працы па гісторыі бел. нар. мастацтва: М. Прыходзька «Кніга пра матэрыяльную культуру беларусаў», 1969, № 4, В. Ф. Гарленка «Новае даследаванне па гісторыі беларускай этнаграфіі», 1974, № 5, В. С. Цімашчук «Сучаснае аблічча беларускай вёскі», 1975, № 5, Ю. З. Круць «Беларуская купальская паэзія», 1976, № 5, А. К. Жук «Манаграфія пра беларускія дываны», 1984, № 3, і інш. Часопіс змяшчае хроніку навуковага і культурнага жыцця БССР. *В. А. Чабаненка.*

**НАРО́ДНА-ДЫЯЛЕ́КТНАЯ МО́ВА,** этнатэрытарыяльныя разнавіднасці (фармацыі) нацыянальнай мовы; тое, што і *дыялектная мова.*

**НАРО́ДНАЕ ДО́ЙЛІДСТВА,** галіна архітэктуры і будаўніцтва, якая развіваецца пад пераважным уплывам народных будаўнічых традыцый. Належыць да нар. матэрыяльнай і мастацкай культур. Вылучаецца арганічным зліццём эстэтычнай і утылітарнай функцый. У адрозненне ад прафесійных тварэнняў пэўных майстроў, тварэнні Н. д. часцей за ўсё не маюць выразнай асабістай адзнакі унікальнасці. Гэта тлумачыцца тым, што выпрацоўка пэўных прыёмаў і форм ішла павольна ў выніку адбору найлепшага і жыццяздольнага з масавай шматвяковай практыкі ўсяго народа. Таму Н. д. часцей за ўсё безыменнае, асоба майстра не мела вырашальнага значэння, творчасць вызначалі рэгіянальныя прыёмы або традыцыі цэхавых аб'яднанняў і архітэктурна-мастацкіх школ. На ўсіх этапах развіцця грамадства Н. д. найбольш ярка характарызуе нацыянальныя традыцыі таго ці інш. народа.

Н. д. ўзнікла ў родавым грамадстве на яго адносна познім этапе развіцця, калі ў будаўніцтве паявіліся эстэтычныя якасці. У класавым грамадстве з Н. д. вылучылася прафесійнае, якое абслугоўвала інтарэсы пануючых класаў; Н. д. абслугоўвала нар. масы. Аднак нар. *дойліды* шырока прыцягваліся і да манументальнага будаўніцтва (замкі, палацы, грамадскія і культавыя збудаванні). У выніку гэтага Н. д. зрабіла вялікі ўплыў на развіццё прафесійнай манументальнай архітэктуры. З другога боку, прафесійная архітэктура рабіла моцны ўплыў на Н. д., дзе формы апошняй перапрацоўваліся адпаведна мясцовым традыцыям. На Беларусі ў эпохі феадалізму і капіталізму Н. д. ахоплівала будаўніцтва сялян, рамеснікаў, шляхты, дробнай буржуазіі ў вёсках, мястэчках і гарадах. Найбольш шырока выкарыстоўвалася дрэва, у гарадах, мястэчках і фальварках будавалі таксама з каменю, цэглы, у тэхніцы «прускага муру». Планіроўку і архітэктуру сялянскіх сядзіб вызначалі канкрэтныя планіровачныя тыпы вёсак лінейнай, або радковай, і бессістэмнай (хаатычнай) планіровак. Таму ў розных рэгіёнах пераважалі вяночны або пагонны тыпы сядзібы. Іх сінтэзаванымі формамі былі двары двухрадковым пагонам, П- ці Г-падобныя. У 19— пач. 20 ст. паявіліся двары з нязвязанымі пабудовамі.

Асноўная тэхніка Н. д.— зрубная. Зрубы звычайна ставілі з акоранага або ачэсанага бярвення; вуглы засякаліся з «астаткам» — «у просты замок» з адной або 2 чашкамі. Тэхніка рубкі вуглоў без «астатку» (без выступаў бярвён) — «у чысты вугал» — здаўна вядома ў гарадах, мястэчках, фальварках, у сялянскім жыллі шырока бытуе з пач. 20 ст. Асноўная аб'ёмна-прасторавая адзінка — прамавугольны зруб-клець, параметры якога вызначаліся даўжынёю бярвён (4—9 м); найбольш пашыраныя прапорцыі зруба ў плане 1:1—1:1,3. Вышыня зруба вызначалася яго выкарыстаннем. У жыллі вышыня дасягала 2,5 м, у інш. збудаваннях была большай ці меншай.

Найбольш архаічныя канструкцыі страхі — на стаяках і *закотам.* Страха на кроквах у вясковым будаўніцтве пашырана з 19 ст., у гарадскім і сядзібным будаўніцтве вядома значна раней. Формы стрэх разнастайныя: 2-схільныя (найбольш пашыраныя), 3- і 4-схільныя, шатровыя, паўвальмавыя (з *залобкамі* або *прычолкамі).* Найбольш пашыраныя матэрыялы пакрыцця — салома, драніца, гонта; вядомы таксама цясніцы (часаныя дошкі), чарапіца, бляха.

*Хаты* ў сялян бытавалі аднакамерныя, двухкамерныя (хата+*сенцы*) і трохкамерныя (хата+сенцы+*клець* або *варыўня* і хата+сенцы+хата). У шляхты з 16 ст. на аснове 3-камернага фарміруецца дом на 6 пакояў, у сенцах робіцца кухня. У шчыльна забудаваных гарадскіх цэнтрах узнік асаблівы тып жылля з уваходам з вулічнага тарца, які аздаблялі *падчэнямі* або прычолкамі. У гарадской забудове 16 ст. вядомы падклеці, мезаніны, мансарды, надбудовы над ганкамі і інш. Колькасць гаспадарчых збудаванняў за-





**Народнае дойлідства.** Хата ў вёсцы Пілішкі Мядзельскага раёна.



**Народнае дойлідства.** Хата ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна.

**Народнае дойлідства.** Жылы дом у горадзе Ветка.

лежала ад заможнасці гаспадара. Звычайна ў сялянскіх дварах будавалі клеці, варыўні, *павеці, хлявы, гумны.* У шляхты вядомы таксама свірны, спіхлеры, *лямусы, сырніцы, бровары, саладзільні, млыны вадзяныя* і інш. У фальварках нярэдка вылучаліся ад двара гумнішчы з гумнамі, стадоламі, токамі, *асецямі, адрынамі,* спіхлерамі і інш. аборныя падвор'і. У вёсках гумны таксама ставіліся ў глыбіні сялянскіх надзелаў. Адметныя рысы Н. д. маюць невялікія вясковыя цэрквы, касцёлы, капліцы, званіцы.

У сав. час аблічча гарадоў і вёсак карэнным чынам змянілася. Сучасная калгасна-саўгасная вёска добраўпарадкоўваецца, ператвараецца ў пасёлішча з прасторнымі дамамі, культурна-асветнымі ўстановамі. Сфарміраваліся новыя тыпы паселішчаў, узніклі новыя формы забудовы сядзібы, планіроўкі і архітэктуры жылля. Зніжэнне ролі асабістай гаспадаркі прывяло да памяншэння сядзібы і двара. Планіроўка хаты развілася ад 2- і 3-камернай да складанай шматпакаёвай. Пашыраецца аздабленне хаты разнастайнай разьбой, шалёўкай, размалёўкай, шпалерамі. Шмат будуецца мураваных дамоў. Многія вёскі забудоўваюцца па генпланах з выкарыстаннем будаўнічай індустрыі. У гарадах захаваліся традыцыйныя тыпы жылля і гаспадарчых пабудоў пераважна ў перыферыйных раёнах. Арыгінальным архітэктурным афармленнем вылучаецца сучаснае нар. жыллё Веткі, Гомеля, Віцебска, Шклова і некаторых інш. гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, пераважна на У Беларусі.

*Ю. А. Якімовіч.*

**НАРО́ДНАЕ ДЭКАРАТЫ́ЎНА-ПРЫКЛАДНО́Е МАСТА́ЦТВА,** народнае мастацтва, галіна народнай творчасці, якая ўключае выраб па-мастацку аформленых прылад працы, хатняга начыння, бытавога абсталявання, транспартных сродкаў, посуду і інш. Найбольш пашыраныя віды: *разьба па дрэве, ганчарства, ткацтва, вышыўка, пляценне,* размалёўка, *кавальства.* Выкарыстоўваюцца звычайна танныя шырокадаступныя матэрыялы: дрэва, гліна, лён, воўна, лаза, салома і інш., з якіх выраблююцца неабходныя ў нар. побыце рэчы. У аснове Н. д.-п. м.— гарманічнае спалучэнне утылітарных, практычных функцый вырабаў з дэкаратыўнымі, мастацкімі задачамі, якія дасягаюцца ўмелым выкарыстаннем дэкаратыўных магчымасцей матэрыялу, прастатой кампазіцыі, яснасцю мастацкай мовы. Дэкор, як правіла, толькі дапаўняе і падкрэслівае лагічную кампазіцыю і ўдала прадуманую форму, з'яўляючыся пры гэтым сродкам рэалізацыі духоўных запатрабаванняў народа. Характар яго вызначаецца ў першую чаргу асаблівасцямі матэрыялу і тэхналогіі вытворчасці (геаметрычныя матывы ў ткацтве і разьбе па дрэве, пластычнасць у кераміцы і кавальстве і інш.), у многіх відах арнаменту праяўляюцца стараж. вераванні, культ прыроды: салярныя знакі, зааморфныя і антрапаморфныя выявы і інш. Асноўныя вызначальныя рысы Н. д.-п. м.— традыцыйнасць (перадача з пакалення ў пакаленне лепшых здабыткаў у галіне формы прадметаў, дэкору, навыкаў апрацоўкі матэрыялаў) і калектыўнасць (масавасць) творчасці. Таму яно мае ярка выяўлены нац. характар, у ім яскрава праяўляецца самабытнасць народа, яго эстэтычныя погляды. У той жа час развіццё розных народаў у аднолькавых сацыяльна-эканам. умовах, выкарыстанне адных і тых жа матэрыялаў, культурныя ўзаемаўплывы выклікаюць аналагічнасць характару і блізкія рысы ў творчасці нар. майстроў суседніх народаў.

З часоў неаліту на тэр. Беларусі выраблаўся гліняны посуд, драўляныя і касцяныя прылады працы, аздобленыя выціснутым, ляпным, разьбяным арнаментам сімвалічнага характару. З падзелам працы і раздзяленнем грамадства на класы выдзяліліся рамеснікі-прафесіяналы, якія абслугоўвалі патрэбы пануючых класаў; творчасць іх нярэдка была далёкай ад нар. традыцый. Паралельна прадаўжала развівацца і традыцыйнае Н. д.-п. м. як хатняя вытворчасць для ўласных патрэб ці ў выглядзе розных рамёстваў, якія развіліся ў *народныя мастацкія промыслы.*



**Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.** Посцілкі. Ткачыха Г. Саўчук. Вёска Галубы Мастоўскага раёна. 1980-я г.



**Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.** Ганчарны посуд. Майстар І. Генбіцкі. Вёска Гарадная Столінскага раёна. 1987.

Вызначыліся асн. якасці бел. Н. д.-п. м.: глыбокая традыцыйнасць, яркая самабытнасць, выразнасць форм, спакойны, стрыманы дэкор, у якім пераважалі стараж. матывы сімвалічнага характару (ромб, круг, крыж, разетка, выявы жывёл і птушак). На працягу многіх стагоддзяў Н. д.-п. м. ўплывала на характар цэхавага і мануфактурнага рамяства, праца прыгонных майстроў выкарыстоўвалася ў майстэрнях і мануфактурах у гарадах, феадальных маёнтках і манастырах. У сваю чаргу Н. д.-п. м. таксама зазнала ўплывы прафесійнага мастацтва.

Пэўныя змены ў характары Н. д.-п. м. назіраюцца ў канцы 19— пач. 20 ст. ў сувязі з сацыяльна-эканам. ўмовамі і адпаведнымі зменамі ў нар. побы-

це. Развіццё капіталізму моцна паўплывала на тыя віды Н. д.-п. м., якія бытавалі ў выглядзе промыслаў. Адны з іх (*набіванка, пернікарства, медніцтва*) не вытрымалі канкурэнцыі з прамысловасцю і заняпалі, іншыя (ганчарства, пляценне) вымушаны былі прыстасоўвацца да новых патрабаванняў, мяняць характар прадукцыі, паляпшаць яе якасць, адгукацца на новыя запатрабаванні рынку. Назіраецца прыкметнае ўзрастанне дэкаратыўнасці твораў нар. мастацтва, у т. л. і тых яго відаў, якія развіваліся ў сферы дамашняй вытворчасці. Побач са стараж. геаметрычнымі і заамορфнымі матывамі сімвалічнага характару пашырыўся рэалістычны раслінны дэкор; распаўсюдзіліся вырабы нар. мастацтва, звязаныя са знадворным і ўнутраным упрыгожваннем нар. жылля; разьбяныя і па-мастацку ашаляваныя *ліштвы, вільчыкі, ганкі, карнізы, франтоны*, разьбяная і размаляваная *мэбля* (гл. *Куфар, Агоўскія куфры*), прылады працы (гл. *Прасніцы*), размалёўка па дрэве, шкле і палатне (гл. *Агоўская размалёўка, Дываны маляваныя*), тканыя і вышываныя *посцілкі, дываны, ручнікі, абрусы, такарнае рамяство* і інш. Росквіту дасягнуў дэкор традыцыйнага нар. *адзення*. Пэўны ўплыў на характар Н. д.-п. м. зрабілі мастацкія стылі прафесійнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, масавая прамысловая прадукцыя, але нар. майстры, прытрымліваючыся мясцовых традыцый, запазычаныя формы вырабаў і віды дэкору перапрацоўвалі адпаведна ўласным запатрабаванням.

Асабліва значныя змены ў характары традыцыйнага Н. д.-п. м. адбыліся ў сав. час. Рост дабрабыту народа, насычэнне побыту таннымі прамысловымі рэчамі абясцэнілі многія традыцыйныя вырабы нар. майстроў. Н. д.-п. м. перажыло перыяд пошукаў новых, адпаведных часу шляхоў развіцця, чаму спрыялі ўрадавыя пастановы аб мерах садзеяння саматужніцкай прамысловасці (1919, 1921), папулярызацыя нар. мастацтва ў друку, арганізацыя выставак. Выяўленню традыцыйных асяродкаў нар. мастацтва, дапамозе майстрам, збору ўзораў садзейнічала арганізацыя Дамоў нар. творчасці (канец 1930-х г.). Паколькі утылітарная, практычная функцыя многіх узораў Н. д.-п. м. абясцэнілася, быў узяты курс на развіццё іх мастацкіх якасцей. У сувязі з інтэнсіўнай адбудовай сав. вёскі шырока развіваюцца віды нар. мастацтва, звязаныя з аздабленнем жылля: архітэктурная разьба (гл. *Веткаўская разьба*), мастацкае ткацтва, аплікацыя, выцінанкі, размалёўка, саломапляценне, разьба па дрэве і інш. У наш час Н. д.-п. м. Беларусі, як і ўсёй краіны, развіваецца пераважна ў двух галоўных кірунках. Першы кірунак — бытаванне ў сваіх традыцыйных умовах, для задавальнення утылітарна-мастацкіх патрэб сучаснага побыту. Адны віды нар. мастацтва адышлі ў нябыт разам з колішнім побытам (саматканае адзенне, самаробная мэбля, набойка, пернікарства, медніцтва, *берасцяныя вырабы*, выцінанкі, дываны маляваныя і інш.), другія істотна змянілі свой характар. Утылітарны бок твораў нар. майстроў адыходзіць на другі план, узрастае іх дэкаратыўнасць, пашыраецца колеравая гама, развіваюцца новыя віды і матывы дэкору. Сёння вырабы нар. майстроў задавальняюць больш эстэтычныя, чым практычныя патрэбы, і скарыстоўваюцца пераважна ў якасці твораў мастацтва і сувеніраў. Развіваецца архітэктурны дэкор, мастацкае ткацтва, пляценне карункаў, разьбярства, працягваюць сваю дзейнасць некаторыя ганчарныя цэнтры: Гарадная Столінская р-на (гл. *Гараднянская кераміка*), Поразава Свіслацкага р-на (гл. *Поразаўская кераміка*), Ружаны Пружанскага р-на (гл. *Ружанская кераміка*) і інш. Другі кірунак развіцця сучаснага Н. д.-п. м. звязаны з дзейнасцю мастацкіх промыслаў, арганізаваных дзяржавай. Здабыткамі Н. д.-п. м. жывіцца прафесійнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. *Я. М. Сахута.*

**НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА**, мастацкая калектыўная творчая дзейнасць працоўнага народа, якая адлюстроўвае яго жыццё, погляды, ідэалы; створаныя народам і бытуючыя ў народных масах паэзія, музыка, танец, выяўленча-прыкладное мастацтва; тое, што і *народная творчасць*.



Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Дыван у тэхніцы аплікацыі саломай па тканіне. Мастак К. Русаковіч. Вёска Рухава Старадарожскага раёна. 1985.



**Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.** Карцы. Канец 19 — пачатак 20 ст.



**Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.** Веранда дома ў вёсцы Жыгалкі Стаўбцоўскага раёна.

**НАРО́ДНАСЦЬ**, 1) асноўны тып этнасацыяльнай супольнасці людзей, што прыходзіў на змену *плямёнам* і саюзам плямён. Фарміраваліся на аснове інтэграцыі і кансалідацыі суседніх плямён і саюзаў плямён, *абшчын*, тэрытарыяльных і інш. груп насельніцтва ў выніку актывізацыі паліт., сацыяльна-эканам., канфесіянальнага, этнакультурнага і інш. фактараў. Уласціва рабаўладальніцкаму і феадальнаму ладу. У працэсе складвання Н. вял. ролю адыгрывалі адзіная дзяржаўнасць, этнагенетычная роднасць на-

сельніцтва, што спрыяла фарміраванню агульнай этнічнай тэрыторыі, мовы, самасвядомасці, пэўнага культурнага адзінства. У той жа час аслабленыя ўзаемасувязі розных тэрытарыяльных саслоўных і канфесіянальных груп насельніцтва, яго нізкая мабільнасць, натуральная сістэма гаспадаркі, перавага занальных эканам. рынкаў над агульнаэтнічнымі (агульнадзяржаўнымі), юрыдычна-прававая аўтаномнасць асобных зямель, княстваў, гарадоў і інш. абмяжоўвалі працэсы этнаўтварэння Н. У межах Н., якія фарміраваліся, этнічная самасвядомасць была шматзначнай і не заўсёды выразнай, часта адцяснялася на другі план рэлігійнай або вузкатэрытарыяльнай (зямляцкай) самасвядомасцю. Тэрытарыяльныя контуры Н. залежалі ад сацыяльна-паліт. фактараў, былі зменлівымі, часта ўмоўнымі.

На Беларусі працэс фарміравання Н. пачаўся ў апошніх стагоддзях 1-га тысячагоддзя н. э. з пераходам усх. славян ад першабытнаабшчыннага ладу да феадальных адносін. Быў звязаны з этнакансалідацыйнымі працэсамі ў Полацкім княстве, насельніцтва якога характарызавалася агульнай этнічнай самасвядомасцю (этнонім палачане), моўным адзінствам, падабенствам культуры. З канца 9 ст. ў Полацкім княстве, як і на інш. стараж. землях Беларусі, адбываліся аб'яднальныя этнапаліт. працэсы, звязаныя з фарміраваннем стараж.-рускай дзяржавы — Кіеўскай Русі і стараж.-рускай Н. Гэта абумовіла пашырэнне на Беларусі агульнай ідэалогіі — праваслаўнай веры, самасвядомасці (этнонім русічы, русь, рускія), адзіных элементаў царкоўнай і свецкай культур і побыту, літаратурнай (царкоўнаслав. і стараж.-рускай) мовы і інш. Агульныя рысы ўзніклі і ў культуры гараджан. У 11—13 ст. феадальная раздробленасць і нашэсце мангола-татар затармазілі працэсы паліт. і этнасацыяльнай кансалідацыі ўсіх славян у адзіны этнас, аднак яны працягваліся і ў 13—16 ст., калі ішло фарміраванне рускай, бел. і ўкр. Н. (пра складванне і развіццё бел. Н. гл. ў арт. *Беларусы*). З развіццём капіталізму Н. пераўтвараецца ў *нацыі*. 2) У дарэвалюцыйнай літаратуры сінонім паняццю «народ», незалежна ад тыпу яго этнасацыяльнай супольнасці і сацыяльна-эканам. адносін. 3) У сучаснай навук. л-ры, дзярж. і інш. дакументах — невялікі народ, які не мае выразнай нацыянальнай і этнасацыяльнай структуры (эвенкі, чукчы, ханты, мансі і інш.). *І. У. Чаквін.*

**НАРО́ДНАЯ ДРА́МА**, найвышэйшая форма народнага тэатра. Увабрала ў сябе і ўзняла на новую ступень у тэатральным мастацтве ўсё, уласцівае больш раннім формам нар. тэатра. Вядома таксама пад назвай «мушкарат». Паказы Н. д. параўнальна вялікія па аб'ёму са значнай колькасцю ўдзельнікаў (10—20 чал.), пэўнымі прыёмамі сцэнічнага выканання, спецыяльнай падрыхтоўкай (асноўная форма яе — рэпетыцыі, на якіх завучвалі тэкст, адпрацоўвалі ўмоўныя рухі і жэсты; выраблялі рэквізіт, рыхтавалі касцюмы). На Беларусі першыя запісы тэкстаў Н. д. зроблены ў 2-й пал. 19 ст. этнографамі Е. Р. Раманавым, А. Е. Грузінскім, М. К. Васільевым, М. Федароўскім, у пач. 20 ст. Е. Іваноўскім, у сав. час — Я. Дылам, Ф. Ц. Дзідзенкам, М. Я. Грынблатам, К. П. Кабашнікавым, Г. А. Барташэвіч, В. А. Захаравай, а таксама былымі ўдзельнікамі паказу І. В. Здрокам, М. С. Ганчаровым.

Н. д. належыць да каляднага цыкла нар. гульняў і паказаў, што і вызначыла яе асаблівасці. Гэта відовішча карнавальнага тыпу, для якога ўласціва агульнае для каляд вольнае святочнае светаадчуванне, своеасаблівая карнавальная атмасфера, нар. святочная сістэма вобразаў. Прымеркаванасцю да каляд абумоўлены яе папулярнасць, тэматыка, сістэма вобразаў, абмежаваная колькасць сюжэтаў. Падобна да таго, як нар. свята адбывалася па ўстаноўленаму ладу, мела пэўныя нязменныя абрады і рытуалы, кожны год выконваліся адны і тыя ж Н. д., затое варыянтаў Н. д. існавала шмат. Бытавалі Н. д. «Цар Ірад», «Цар Максімілян» (найбольш папулярная), «Трон» (спалучала сюжэты двух першых), а таксама кароткія драматычныя сцэнкі тыпу «Мацей і доктар». Н. д. «Лодка» асобна не зафіксавана, яна існавала толькі ў кантамінацыі (змяшэнні) з «Царом Максімілянам» (запісы ў г. Рэчыца і в. Бялевічы Слуцкага р-на). Вытокі Н. д. ў калядных гульнях з пераапрананнямі тыпу *«Каза»*, «Вялікая кабыла» (персанажы і прынцыпы іх абмалёўкі, кампазіцыйныя і выканальніцкія прыёмы, часткова грым, касцюмы, рэквізіт) і ў *батлейцы*, дзе фактычна яна і складалася. Так, дзед і цыган з гульняў-паказаў — абавязковыя і важныя персанажы Н. д. Бытуе ў Н. д. і сцэна абмену коньмі з «Вялікай кабылы». Захоўваецца таксама размяшчэнне ўдзельнікаў паказу (галоўныя персанажы — на сярэдзіне хаты, астатнія — ля парога), прыём счаплення асобных нумароў (зварот асноўнага персанажа да іншых). Батлейкавы паказ «Цара Ірада» жывымі ўдзельнікамі, т. зв. жывая батлейка, і ёсць уласна Н. д. На ўзор «Цара Ірада» ў адпаведнасці са стылістыкай нар. творчасці і ў рэчышчы агульнай тэматыкі каляд (нараджэнне Хрыста і вадохрышча) была складзена Н. д. «Цар Максімілян». Фактычна па форме, зместу і выканальніцтву паказы пра цара Ірада і цара Максіміляна не адрозніваюцца.

Паказы Н. д. складаліся з дзвюх частак, кожная са сваімі героямі: т. зв. сур'ёзная — асноўны сюжэт (лінія цара Ірада, цара Максіміляна і сына Адольфа) і камедыйная — інтэрмедыйныя сцэны. У адзінае цэлае часткі спалучаліся своеасаблівым карнавальным светаадчуваннем. Паказы, што характэрна для нар. тэатра наогул, мелі своеасаблівы пралог—зварот да гаспадара хаты за дазволам «прэстаўляць» і эпілог — віншаванне са святам і просьба ўзнагароды. Асноўны кампазіцыйны прыём — выклікі дзейных асоб да цара: іх ажыццяўляюць т. зв. службовыя персанажы — воін, «фіцмаршал», «скараход» і інш. У асноўным сюжэце выкарыстоўваўся матыў забойства ўласнага сына (быў папулярны ўжо ў батлейцы — запісы ад А. І. Моніча і М. Барашкі, М. Федароўскага, у т. зв. Слуцкай батлейцы; таксама жывой батлейцы — з в. Казлы і Гусакі Нясвіжскага р-на). У «ЦаруІрадзе» канфлікт паміж царом і яго сынам быў толькі пазначаны (як магчымая пагроза ўладзе цара), меў апасродкаваны характар. У «Цару Максіміляне» ён набыў форму непасрэднага сутыкнення, стаў цэнтральным: сын адмаўляецца адрачыся ад веры хрысціянскай, як патрабуе цар, і «паверыць кумірыцкім багам». Інтэрмедыйныя сцэны пабудаваны на ўзор батлейкавых: уключалі жартаўлівыя дыялогі, бойкі, танцы. Н. д. адрозніваліся інтэрмедыйнымі сцэнамі. Праўда, яны не супадалі ў варыянтах адной і той жа Н. д., хоць былі сярод іх як бы абавязковыя. Напрыклад, «Мацей і доктар» у «Цару Ірадзе» (і батлейцы) і яе эквівалент «Стары і доктар» у «Цару Максіміляне» (тут у некалькі інш. выглядзе, але батлейкавыя сродкі і метады лячэння аднолькавыя). У «Цару Максіміляне» ўмоўна вылучаюцца 2 серыі інтэрмедыйных сцэн: пахаванні і паядынкі, т. зв. рыцарскія штурмаванні (паходзяць з батлейкі).

Н. д. працікнута аптымізмам, жыццесцвярджальнасцю, у ёй спраўляецца свята матэрыяльнага дабрабыту, роўнасці і свабоды, сімвалізуецца ў астаткавай форме ўсеагульная весялосць, «банкет на ўвесь свет». Усё перакладаецца на мову святочных нар. уяўленняў, абсмейваецца, зніжаецца высокае і сур'ёзнае, сцвярджаецца фамільярнасць як тып зносін. Традыцыі нар. карнавальнай культуры выяўлены перш за ўсё ў інтэрмедыйных сцэнах, дзе ствараецца свой асаблівы свет, у якім вясёлыя смерці, пахаванні, хваробы, паядынкі, бойкі. Тут смерць — не трагедыя, а падстава для жартаў, таму і пахаванні вясёлыя. Паядынкі — умоўна тэта тыя ж бойкі, але пададзеныя ў параўнальна высокім стылі. Яны таксама вясёлыя, нават тыя, што мелі смяротны зыход, бо падаваліся скрозь прызму святочнага светаадчування і ўсур'ёз гледачамі не ўспрымаліся. І са смерцю тут абыходзяцца фамільярна: з ёй таргуюцца за жыццё, у бялевіцкім варыянце яна нават скача за ўсімі ўдзельнікамі, а потым і яе саму забіваюць. Носьбітамі карнавальнага пачатку ў Н. д. з'яўляліся інтэрмедыйныя персанажы, перш за ўсё «дзед» («стары-далакоп», «мужык», блізкія да іх і тры «пастухі»), «яўрэй», «цыган», «доктар», «элегант», «пілігрым». Яны

належаць да катэгорыі блазнаў, пры гэтым «дзед» і «яўрэй» выконваюць важную функцыю карнавальнага развенчвання «цара». Яны і паводзяць сябе адпаведным чынам: весяляць сваімі кпінамі, жартамі, прыкідваюцца, строяць з сябе дурня і тым самым забаўляюць гледачоў, абсмейваюць усіх, у т. л. і сябе; смех, іронія, фамільярнасць вызначаюць іх зносіны з публікай. Персанажы і інтэрмедыйныя сцэны Н. д. пранізаны амбівалентным смехам. Пры гэтым та праектавалі мадэль будучага справядлівага грамадства. Уплывам карнавальнасці пазначаны і асноўны сюжэт: яго персанажы, карнавальныя матывы, удзел інтэрмедыйных персанажаў у асноўным канфлікце, сур'ёзны матыў перапыняўся інтэрмедыйнымі ўстаўкамі, так што сур'ёзнасць асноўнага сюжэта і яго персанажаў адносная.

Н. д. шырока бытавала сярод сялян і рамеснікаў. Паказы звычайна адбываліся па хатах. Удзельнікі і гледачы прытрымліваліся традыцыі, якая ў нар. тэатры, у т. л. і паказах Н. д., з'ўлялася своеасаблівым рэжысёрам. Выкарыстоўваліся агульныя прынцыпы паказаў нар. тэатра: кантакт удзельнікаў і гледачоў, адсутнасць сцэнічнай пляцоўкі, дэкарацый (іх замяняў рэквізіт), заслоны, куліс, асвятлення; маскі; дэкламацыя з фарсіраваным гукам і напеўнасцю мовы; сінтэтычнасць відовішча — спалучэнне драматычных элементаў з музычнымі і танцавальнымі, часам і з пантамімай; перавага дзеяння над словам. У выканальніцтве Н. д. спалучаліся прыёмы народныя, заснаваныя на імправізацыі, з буфанадай і гратэскам, для інтэрмедыйнай часткі — і т. зв. вайсковыя (у аснове іх выкарыстанне ўдзельнікамі-персанажамі артыкулаў вайскавога статута). Часам выкарыстоўваліся сцэнічныя эфекты (звычайна выкіданне полымя з рота ў сцэнах паядынкаў). Для паказаў Н. д. характэрна умоўнасць, хуткі тэмп, агульная франтальная мізансцэніроўка, адсутнасць мімікі ў сур'ёзных персанажаў. Паказы разыгрываліся і ўспрымаліся з асаблівым святочным, вясёлым, гарэзлівым настроем удзельнікаў і гледачоў, таму Н. д. ў выкананні нар. акцёраў — заўсёды камедыя.

Н. д. «Цар Максімілян» была асабліва папулярная сярод гутнікаў. Яны фактычна наладжвалі аматарскія спектаклі па матывах Н. д. У гэтых спектаклях захоўвалася агульная канва Н. д., а яе канфлікт, вобразы былі пераасэнсаваны, асучаснены, пастаноўкі мелі ярка выражаную сацыяльна-паліт. накіраванасць. Традыцыйныя прыёмы і прынцыпы нар. паказу спалучаліся з моцным уплывам тэатра: пышныя пастаноўкі з удзелам 35—40 чал., урачыстыя цырымоніі ўступлення на трон і пахавання, масавае пабоішча (28 чал.), рэжысёр і яго памочнік, спец. памяшканне са сцэнай, заслонай, асвятленнем, месцамі для гледачоў і інш. Народныя традыцыі выканання Н. д. былі выкарыстаны пры пастаноўцы «Цара Максіміляна» ў апрацоўцы А. М. Рэмізава і М. А. Міцкевіча ў Бел. драм. студыі ў Маскве (1924, рэж. В. С. Смышляеў).







Сцэны з паказу **народнай драмы** «Цар Максімілян» у вёсцы Бялевічы Слуцкага раёна (1963). Фрагмент з «Лодкі». Выклік Адольфа да цара. Пакаранне Смерці.

забаронаў і абмежаванняў для смеху ў нар. тэатры не іспавала. Карнавальныя матывы ўплывалі і на сур'ёзныя падзеі, здымалі з іх драматызм і напружанне, афарбоўвалі і т. зв. сур'ёзныя персанажы. Літаральна ўсё травесціруецца: сам «цар» (напр., цырымонія ўступлення яго на трон), удзельнікі гераічных бітваў «гусар», «рыцары» (у т. л. абаронца горада Аніка-ваяка) і інш. Блазнерства інтэрмедыйных персанажаў мела і сур'ёзны сэнс: у ім адбываліся нар. імкненні, перамагаліся страх і смерць, адмаўляліся афіцыйная праўда і пануючая ўлада. Паладзіўшы ўсеагульную роўнасць абсмейвання, часовае утапічнае царства свабоды і матэрыяльнага дабрабыту, інтэрмедыйныя персанажы тым самым нібы

Н. д. найбольш шырока бытавала на Беларусі ў 2-й пал. 19 ст.—1-й трэці 20 ст. Зафіксаваны не паказы: «Цар Ірад» — у Гродзенскай вобл.: г. п. Дзятлава (1895), в. Васілішкі Шчучынскага р-на (1901), Навагрудак (1909), в. Воўпа Ваўкавыскага р-на (1911); у 1920—30-я г. ў Зах. Беларусі — вёскі Казлы і Гусакі Нясвіжскага, Азярніца Слонімскага, Крапінкі Смаргонскага, Верхні Цярабяжоў Столінскага (напярэдадні Вял. Айч. вайны і ў першыя пасляваенныя гады), а таксама на Маладзечаншчыне; «Цар Максімілян» — у Віцебскай вобл.: Віцебск (каля 1860-х г.), Глыбокае і в. Ластавіца Глыбоцкага р-на (1867); у Мінскай вобл.: Слуцк (каля 1850-х г., 1887—88, 1902—04) і навакольныя вёскі, у тыя ж гады, таксама вёскі Бялевічы (1912, 1917—20, апошнія паказы наладжаны ў

1962, 1963), Старэва (1912, 1916, на гуце) Слуцкага, в. Межная Слабада Клецкага (1912), в. Языль Старадарожскага р-наў (1920-я г.); у Магілёўскай вобл.: в. Смолькі Касцюковіцкага р-на (1905); у Гомельскай вобл.: Гомель (1880-я г.), Беліцк (1891), Рэчыца (1896, 1923), вёскі Ровенская Слабада Рэчыцкага (1980-я г.), Гарывада Гомельскага (1911), Дарашэвічы Петрыкаўскага р-наў (1920-я г.); у Брэсцкай вобл. в. Лахаўка Лунінецкага, в. Міхалін Пружанскага р-наў (1904—05, на гуце), таксама в. Нараўка (1912, на гуце), у былой Гродзенскай губ. (цяпер ПНР); «Трон» — Гомель і Беліцк (1912), а таксама з 1870-х г. разыгрываліся бел. трупамі з Мінскай і Чарнігаўскай губ. на Украіне; «Мацей і доктар» — Барысаўскі р-н (1902), каля в. Рудзевічы Зэльвенскага р-на (1903).

*Дз. У. Стэльмах.*

**НАРО́ДНАЯ КАРЦІ́НКА**, від графікі, выява з подпісам; тое, што і *лубок*.

**НАРО́ДНАЯ МАРА́ЛЬ**, форма грамадскай свядомасці і адносін, своеасаблівы неафіцыйны рэгулятар паводзін людзей ва ўсіх сферах грамадскага і асабістага жыцця; адна з асноўных форм культуры народа. Узнікла ў глыбокай старажытнасці. Вытокі — спосаб вытворчасці і прынцыпы размеркавання, жыццё і працоўны вопыт народа ў розных сацыяльна-эканам. фармацыях на пэўных ступенях развіцця чалавечага грамадства. У першапачатковым выглядзе праяўлялася ў *звычаях*, традыцыях і *абрадах*. З удасканаленнем сродкаў вытворчасці, узнікненнем прыватнай уласнасці і класаў, заменай кроўна-родпасных сувязей і адносін прыватнаўласніцкімі, фарміраваннем нацый Н. м. вылучаецца як адносна самастойны погляд на жыццё, супрацьлеглы афіцыйнай маралі пануючых класаў. Прынцыпы, нормы і ацэнкі Н. м. ўвасоблены ў фальклоры: байках, чарадзейных і бытавых казках, казках пра жывёл, прыказках, прымаўках, песнях, легендах і інш. Усё маральна-ацэначнае разуменне жыцця, увасобленае ў фальклоры, людзі праносілі праз вякі, вусна перадавалі ад пакалення да пакалення, напаўнялі новым зместам у залежнасці ад змен гіст. працэсаў. У фальклоры — як бы напісаны маральны кодэкс народа, яго педагогіка, крытэрый паводзін і вызначэння мэты ў складаных умовах жыцця людзей класава-антаганістычнага грамадства. На Н. м. уплывалі не толькі эканам. ўмовы жыцця, але і афіцыйная мараль пануючых класаў, іх палітыка, ідэалогія і мастацтва, рэлігія. Нягледзячы на тое, што вядзенне гаспадаркі на прыватнаўласніцкай аснове аб'ектыўна параджала індывідуалізм, а царква стварала міфы і легенды рэлігійнага зместу, імкнулася ўвесці людзей ад рэальнага жыцця, Н. м. захоўвала ў сабе стыхійна-матэрыялістычны погляд на з'явы рэчаіснасці, давала ацэнку несправядлівасці, эксплуататацыі і няроўнасці. Дарадчыкам працоўнаму чалавеку служыў не бог, а яго прыродная кемлівасць, знаходлівасць, практыка жыцця. Н. м. услаўляе працавітасць, гаспадарлівасць, беражлівасць, калектывізм, узаемадапамогу, бескарыслівасць, добразычлівасць, памяркоўнасць, сціпласць, добрасумленнасць; ганьбіць гультайства, п'янства, злачынства, несправядлівай лічыць працу на пана, ставіць пад сумненне наяўнасць бога. Праца паводле Н. м. — галоўны крытэрый маральнай ацэнкі, неабходная ўмова жыцця, творац дабраты, выхавання ў чалавека чалавечнасці.

Разлажэнне феадальна-прыгонніцкай сістэмы і развіццё капіталістычных адносін, усведамленне беларусамі сваёй нацыянальнай годнасці ўзмацнялі ў Н. м. ідэі свабоды, роўнасці і вялікага прызначэння чалавека працы, пратэст супраць прыгнятальнікаў. Н. м. беларусаў не была адасобленай, яна папаўнялася маральнымі каштоўнасцямі інш. суседніх народаў, але мела свой нацыянальны змест.

Значнае месца ў Н. м. займае сямейна-бытавая мараль. Да стварэння сям'і народ адносіўся з выключнай адказнасцю. Паводле звычаю яшчэ да вяселля жаніха і нявесту абмяркоўвала радня, знаёмыя, высвятлялі іх маральныя якасці, здароўе, рысы характару, здольнасці да працы, уменне весці гаспадарку. Згубленую дзяўчынай да шлюбу нявіннасць і нявернасць у шлюбе Н. м. асуджала, нават, калі дзяўчыну выдавалі замуж прымусова за нялюбага (багатага ці старога). Паводле Н. м. сям'ю неабходна ствараць на аснове кахання і ўзаемнай вернасці. Н. м. перасцерагала дзяўчат выходзіць замуж за намнога старэйшых або маладзейшых па ўзросту. Адносна аднолькавае матэрыяльнае становішча, роўнасць узростаў маладых пры шлюбе, іх працавітасць і ўзаемнае каханне, фізічнае здароўе, добрыя і спагадлівыя дзеці — маральны ідэал сям'і беларуса. Выхаваць дзяцей — значыць даць ім магчымасць пазнаць жыццё праз працу без апекі. Непавага да старэйшага, тым больш да бацькоў — маральны грэх.

Для Н. м. характэрна вялікая любоў да Радзімы. Радзіма спачатку атаясамлівалася з месцам, дзе чалавек нарадзіўся, пазней пад уплывам сацыяльна-эканам. змен гэта паняцце пашыраецца да межаў нацыі і ўсёй краіны. Разуменне народам Радзімы ў Н. м. двухпланавае. Першае — гэта блізкія сэрцу хаты, родныя нівы, зялёныя дываны лугоў, шумлівыя лясы і рэкі, працавітыя добрыя людзі з іх спагадлівасцю і самаахвярнасцю ў барацьбе з агульным горам; але гэта і цяжкая праца на пана, здзекі над чалавекам і насілле, голад, галеча і несправядлівасць. Народ любіць не тую Радзіму, дзе пан пануе, а мужык гаруе, а тую, дзе бытуе праўда, знішчана зло, крыўда, дзе вольная праца і шчасце. Патрыёт — гэта магутны ўладар і абаронца сваёй зямлі, які нялёгкай працай упрыгожвае яе, даглядае і любіць. Н. м. супраць захопніцкіх войнаў, але за гатоўнасць чалавека аддаць жыццё за лёс і шчасце сваёй Радзімы. Здрадніка, чужынца-захопніка народ пазбаўляе чалавечай годнасці, параўноўвае з самымі нізкімі і пачварнымі істотамі.

Н. м. імкнулася да волі, свабоднай творчай працы, пазбаўленай эксплуатацыі прыгнёту. Народаўладства, грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці, справядлівы сацыялістычны прынцып размеркавання, што ўсталяваліся ў Савецкай краіне пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, сталі той сілай, якая ўсталёўвае паміж людзьмі і народамі сапраўды чалавечыя, гуманістычныя адносіны. Н. м. бескарысны дар мінулых пакаленняў.

*А. В. Шастаковіч.*

**НАРО́ДНАЯ МЕДЫЦЫ́НА**, сукупнасць эмпірычна набытых народам ведаў пра гаючыя сродкі, лекавыя травы і гігіенічныя навыкі, а таксама іх практычнае выкарыстанне для збераження здароўя, папярэджання і лячэння хвароб. Узнікла ў глыбокай старажытнасці. У першабытнаабшчынным грамадстве была адзіным відам медыцыны, абагульняла эмпірычныя звесткі пра пэўныя гігіенічныя меры і спосабы лячэбнай дапамогі пры параненнях, абмаражэннях, апёках, траўмах, розных хваробах. Збіранне і ўжыванне ў ежу раслін давала чалавеку магчымасць пазнаёміцца з іх уласцівасцямі, адрозніваць ядомыя плады, карані, травы, грыбы, водарасці ад неядомых, атрутныя — ад неатрутных, набываць веды пра ўздзеянне той ці інш. расліны на арганізм чалавека (напр., было заўважана, што адны расліны выклікалі павышанае сэрцабіцце, другія сунімалі кашаль і г. д.). З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі веды чалавека пра раслінны і жывёльны свет пашырыліся. Так, пры апрацоўцы скур людзі даведаліся пра вяжучыя ўласцівасці дубовай і вярбовай кары і пачалі выкарыстоўваць адвары яе пры страўнікава-кішэчных хваробах. Алей, выціснуты з семя лёну і канапель, служыў слабільным сродкам, а распаранае льняное семя — сродкам для прыпарак. Здаўна ад курынай слепаты елі ялавічную (цялячую) печань, ад цынгі — цыбулю, часнок і хрэн, ад малакроўя — моркву і грэцкую кашу. Малакроў'е лячылі таксама сокам альяса, сухоты — сабачым, барсуковым ці мядзведжым тлушчам. З старажытнасці вядомы гаючыя ўласцівасці сонечных прамянёў, вады. З назапашваннем ведаў па Н. м. паявіліся асобы, асноўным заняткам якіх стала лячэнне. У Кіеўскай Русі іх называлі лечцамі, зяленнікамі, траўнікамі. На Н. м. ўплывалі таксама прымхі, містычныя ўяўленні, якія спрыялі *знахарству;* узнікненне многіх хвароб тлумачылі ўсяленнем у чалавека злых духаў, хворых «лячылі» вытоптваннем, выцісканнем, замовамі, шэптамі. Элементы *дэманалогіі* і містыкі ў практыцы нар. лекараў цесна перапляталіся

з рацыянальнымі прыёмамі лячэння. Звесткі пра сродкі Н. м. перадаваліся з пакалення ў пакаленне вусна, адлюстраваны ў нар. звычаях, прыказках, прымаўках, паданнях, замацаваны ў пісьмовых крыніцах (лячэбнікі, траўнікі і інш.). Да апошняга часу вучоныя, краязнаўцы знаходзяць лячэбнікі 17—18 ст. У 1926 навуковая экспедыцыя Аршанскага акруговага т-ва краязнаўства выявіла ў в. Мардашавічы Дубровенскага р-на ў сялянкі Г. Шаранды лячэбнік, па якім мясцовыя жыхары лячыліся многія гады. У лячэбніку 30 аркушаў, апісана 77 раслін, большасць з якіх мае бел. назвы. Лячэбнік 18 ст., знойдзены ў в. Гайдукоўцы Магілёўскага р-на, пералічвае раслінныя лячэбныя сродкі (крапіву, моркву, мяту і інш.), сродкі жывёльнага паходжання (кроў, печань, косці жывёл і г. д.). Навуковая медыцына бярэ з вопыту Н. м. усё каштоўнае і рацыянальнае. У 19— пач. 20 ст. сродкі Н. м. вывучалі бел. ўрачы і этнографы: А. А. Антонаў, Ю. Ф. Крачкоўскі, А. А. Сіцынскі, М. Я. Нікіфароўскі, А. Меер, Е. Р. Раманаў, П. В. Шэйн, М. Федароўскі, К. І. Грум-Гржымайла, А. К. Сержпутоўскі і інш. У наш час даследаваліся пытанні Н. м. і дзейнасці нар. лекараў на Беларусі (В. П. Грыцкевіч, Л. І. Мінько), уплыў светапогляду і ўмоў жыцця на ўяўленні пра хваробы і метады іх лячэння ў розныя гіст. эпохі (Р. Р. Кручок), матэрыяльныя прыкметы бытавання Н. м. паводле даных стараж. пахаванняў (Л. М. Казей). *Л. І. Мінько.*

**НАРО́ДНАЯ МЕТЭАРАЛО́ГІЯ,** адна з важных старажытных галін народных ведаў пра магчымае надвор'е ў бліжэйшы ці больш аддалены час. Выклікана неабходнасцю арыентавацца ў зменах стану прыроды для аптымальнага вядзення гаспадаркі, асабліва земляробства. Народныя прадказанні надвор'я засноўваліся на шматвяковым сялянскім вопыце, назіральнасці, глыбокім веданні прыроды. Пад увагу браліся ўзаемасувязі атмасферных з'яў, асаблівасці росту раслін, іх рэагаванне на змены метэаралаг. умоў, фізічны стан чалавека, паводзіны звяроў, птушак, рыб і г. д. Адначасова ў прадказаннях надвор'я мелі месца і прымхлівыя ўяўленні чалавека, што вынікалі з фантаст. тлумачэнняў тых ці інш. прыродных фактараў.

Характэрныя асаблівасці кожнай пары года ці асобных каляндарных дзён замацаваны ў прыкметах, якія сталі прыказкамі: «Пытаецца люты, ці добра абуты», «Грамніцы (2 лют. с. ст.) — паўзіміцы, дзяржы ў запасе рукавіцы», «Марац кусае за палец», «На Аляксея (17 сак.) зіма пацее, рыба аб лёд, санічкі аб плот», «Прыйшоў Пятрок (29 чэрв.) — апаў лісток, прыйшоў Ілья (20 ліп.) — нарабіў гнілля, прыйшла прачыстая (15 жн.) — усё стала чыста». Выхаднымі ў прадказанні будучага надвор'я былі канкрэтныя дні года (часцей у якасці апорных дат браліся значныя каляндарныя святы або перыяды). Паводле нар. пераканання, метэаралаг. прагнозы можна рабіць не толькі на бліжэйшыя дні, але і на цэлыя поры года. Аднак дакладнасць гэтых прагнозаў была даволі невысокая. Адліга на каляды сведчыла, што санны шлях прадоўжыцца да сярэдзіны сакавіка, вясна будзе ранняя, а лета багатае; калі на каляды ішоў снег — вясна чакалася худая; на Новы год снег падаў з самага ранку — уся зіма павінна быць снежная, а лета пагоднае; у першы дзень года ці на пакровы (1 кастр.) вецер дзьме з усходу — знак на гарачае і сухое лета, з поўдня — на ўмераную тэмпературу, заходні — на мокрае лета, паўночны — на халоднае з градам. У прыкметах устанаўлівалася залежнасць характару надвор'я між асобнымі каляндарнымі днямі і перыядамі: калі перад калядамі (25 снеж.) мароз і завіруха, то перад вялікаднем будзе цёпла і ціха; якое надвор'е на благавешчанне (25 сак.), такое і на першы дзень вялікадня; калі на Міхайлаў дзень (8 ліст.) прыціснe мароз, то на Міколу (6 снеж.) адпусціць; калі перад восеньскім Юр'ем (26 ліст.) многа снегу, то на веснавога Юр'я (23 крас.) будзе трава. Нярэдка ў народзе год умоўна падзялялі на 2 роўныя часткі, пры гэтым лічылі, што надвор'е адпаведных дзён кожнай паловы года павінна быць прыблізна аднолькавым, напр., снежны дзень 1 студз. сведчыў, што 1 ліп. будзе дажджлівым, непагодным, а ясны марозны пачатак каляд (25 снеж.) абяцае цёплае, спакойнае купалле (24 чэрв.). Стан надвор'я ў пэўныя дні года прадказваў таксама характар будучага ўраджаю і поспехі ў гасп. занятках: снег на веснавога Юр'я падаваў надзею, што летам пабялеюць палі ад грэчкі; калі на восеньскага Юр'я мароз, то і на гары вырасце авёс; дождж на пакровы — прыкмета, што наступны год будзе добры для пчаляроў. Меркавалі пра будучае надвор'е на падставе самаадчування чалавека, арганізм якога рэагаваў на атмасферны ціск, назіджэнне ападкаў і г. д. (спіна баліць — дождж будзе).

Найбольшую колькасць метэаралаг. прагнозаў складаюць нар. павер'і, заснаваныя на назіраннях людзей за жывёльным светам. Паводзіны, стан амаль усіх прадстаўнікоў мясцовай фауны разглядаліся як прадказанне пэўных перамен надвор'я: калі ў каровы шэрсць вільготная, будзе дождж; свіння нясе салому з хлява — будзе сцюдзёна; мышы звілі гняздо ў лёне — у наступную зіму будзе вялікі снег і інш. Існавала шмат прыкмет надвор'я, прадказаных свойскімі і дзікімі птушкамі: певень увечары спявае — будзе дождж ці адліга; бусел шукае жаб на балоце — будзе пагода, на полі — будзе дождж; ластаўкі лятаюць высока — на пагоду, кружацца ля зямлі — на дождж. У прадказанні надвор'я чалавек арыентаваўся таксама на паводзіны рыб, земнаводных, паўзуноў і насякомых: на змяркані рыба плешчацца на паверхні вады — будзе добрае надвор'е, калі выскоквае і ловіць мошак — будзе дождж; калі пчолы з раніцы сядзяць у вуллі і гудуць, а мурашкі хаваюцца ў мурашніках — будзе дождж. Асаблівасці росту, цвіцення, выспявання пладоў розных раслін тлумачыліся сялянамі як прадказанне пэўных зрухаў у надвор'і, як прагноз па асаблівасці будучых пор года: калі бяроза распусцілася раней за вольху — будзе сухое лета, у адваротным выпадку — непагадзь; калі надта многа баравікоў улетку, то зіма будзе вельмі снежная і г. д.

Прызнанымі арыенцірамі пры вызначэнні змен надвор'я лічыліся ў народзе нябесныя свяцілы. Сонца або месяц былі акружаны туманным колам, летам чакалі буры, а зімой — мяцеліцы; калі сонца заходзіла ў хмары ці бляднела пры заходзе — на дождж. Ад маладзікоў народ заўсёды чакаў атмасферных перамен. Ясны свет зорак прадказваў пагоду, цьмяны іх свет — непагадзь. Уважлівае ўзіранне ў самыя розныя праявы навакольнага свету і ўменне ўлавіць іх прычынна-выніковую ўзаемазалежнасць дазволілі чалавеку выпрацаваць цэлую сістэму ведаў у галіне метэаралогіі. Чырвоныя воблакі пасля заходу сонца паказвалі на вецер. Заходні і паўднёвы вятры паказвалі летам на дождж і навальніцу, а зімою — на адлігу і снег. Першы гром на лёд значыў прыход халоднай вясны, а на зялёнае голле — абяцаў добрае лета. Калі раніцай туман падымаўся ўгару — вечарам чакалі дажджу, калі рассцілаўся па нізе — ясную пагоду. Калі не было з вечара ці ўначы расы, то ўдзень будзе дождж. Калі зімою лучына гарэла весела і вугалі закручваліся ў трубку — на мароз, а калі ўлетку лучына «прыскала» — на дождж. Прадказвалі надвор'е і па адгалоску: калі голас быў гучны, разлятаўся далёка — чакалі пагоду, калі, наадварот, глухі — то непагадзь.

Многія з нар. прыкмет знаходзяць у наш час навук. абгрунтаванне і тым самым узбагачаюць веды сучасных сінопцікаў. Аднак шматлікія прагнозы надвор'я або парады, накіраваныя на яго перамену, абвяргаюцца вопытам, не нясуць практычнай карысці, уяўляюць толькі цікавасць пры вывучэнні нар. вераванняў. Патрэба выклікаць тое ці інш. надвор'е нарадзіла ў свядомасці сялян комплекс забабонаў, магічных дзеянняў, пазбаўленых рацыянальнага пачатку. Каб выклікаць вецер, трэба свістаць або дражніць лысага дзеда. Каб пайшоў дождж у засушлівую пару, сыпалі мак у калодзеж, заворвалі плугам высахлае рэчышча. А каб спыніўся мароз, раілі налічыць 10 знаёмых лысых. Многія павер'і нараджаліся ў выніку асацыятыўна-вобразнага мыслення і неслі несапраўдную інфармацыю. Напр., калі пры вяртанні жывёлы з поля наперадзе ішла рыжая ці белая карова, на наступны дзень прадказвалі яснае надвор'е, а калі чорная ці ра-

бая — наадварот; калі трашчаць свечкі напярэдадні каляд ці вялікадня, лета будзе з частымі перунамі і маланкамі. Існавала шмат інш. забабонаў. Веданне Н. м., актыўнае выкарыстанне яе рацыянальных прыкмет, выпрацаваных на працягу стагоддзяў, робіць вял. паслугу чалавеку, выклікае яго пашану да продкаў, ад якіх у спадчыну дайшлі мудрыя веды аб прыродзе, выхоўвае любоў да роднага краю. *У. А. Васілевіч.*

**НАРО́ДНАЯ МО́ВА**, адна з назваў *дыялектнай мовы.*

**НАРО́ДНАЯ МУ́ЗЫКА**, музычны фальклор, песенная і інструментальная творчасць народа. Творы Н. м. ўзнікаюць на аснове мясцовых традыцый, адлюстроўваюць калектыўна выпрацаваныя эстэтычныя прынцыпы працоўнага народа. У працэсе вуснай перадачы твораў кожнае пакаленне ўдзельнічае ў іх адборы, асэнсаванні, шліфоўцы. Н. м. вядома ўсім гіст. грамадскім фармацыям, пачынаючы з дакласавага грамадства і ўключаючы сучасны свет. Яна ахоплівае ўсе бакі жыцця народа: абрадавыя дзействы, святкаванні, звычаі, працу, адпачынак, побыт. Вядучае месца ў бел. музычнай культуры займае песенная творчасць, якая ахоплівае некалькі вялікіх гіст. пластоў. Найбольш даўні пласт утвараюць песні каляндарна-земляробчага і сямейна-абрадавага цыклаў. Каляндарна-земляробчы цыкл прадстаўлены на Беларусі веснавымі гуканнямі, калядnымі, шчадроўскімі, масленічнымі, валачобнымі, юраўскімі, купальскімі, пятроўскімі, жніўнымі, яравымі, ільнянымі, восеньскімі песнямі, а таксама веснавымі і летнімі карагодамі, зімовымі гульнёвымі, веснавымі і летне-восеньскімі талочнымі песнямі; сямейна-абрадавы — радзіннымі і вясельнымі песнямі, вясельнымі і пахавальнымі галашэннямі. Да гэтага ж цыкла далучаюцца і сямейна-бытавыя калыханкі. Змест песень характарызуецца першнаперш працоўнай земляробчай тэматыкай, пераплеценай з тэматыкай побыту і даўніх язычніцкіх святкаванняў, з вобразамі навакольнай прыроды (часта персаніфікаванымі). Нярэдка на першы план выступаюць матывы міфалагічныя, баладныя (у купальскіх песнях), пазней — гістарычныя (у калядных), антыпрыгонніцкія (у жніўных). Вобразны лад песень вызначаецца маляўнічасцю (веснавыя, калядныя, вясельныя велічальныя) або элегічнасцю (восеньскія, вясельныя сіраце); псіхалагічная паглыбленасць спалучаецца з яркасцю бытавых замалёвак (жніўныя). Вызначальная рыса песень каляндарна-земляробчага і сямейна-абрадавага цыклаў — строгая прымеркаванасць да пэўнага часу ці абставін, якая раней была абумоўлена дакладнай абрадавасцю, а ў наш час падтрымліваецца традыцыяй і асацыятыўнымі сувязямі. Другая вызначальная прыкмета гэтых песень — іх поліфункцыянальнасць. У сістэме гістарычна зменлівых і пераасэнсаваных іх функцый (напр., абрадавай з магічным прызначэннем — у гульнёвую) пастаяннымі застаюцца скразныя — нарматыўна-рэгламентуючая, інспіратыўная і знакава-апазнавальная. Строгая прымеркаванасць і поліфункцыянальнасць гэтых песень абумовілі фарміраванне т. зв. тыпавых напеваў — гранічна сціслых меладычных формул з групавым прымацаваннем паэтычных тэкстаў. У межах пэўнага арэала кожны такі напеў мае сімвалічнае значэнне. Гэта не проста песні, якія спяваюцца на калядны, вясной, на купалле, у жніво, а «сам голас» каляды, вясны, купалы, жніва. У каляндарным цыкле маюць месца і больш індывідуалізаваныя напевы, якія не аднасяцца да кананічных тыпавых. Прымеркаванасць іх умоўная: «лесавыя», «лугавыя», «палявыя», «як полюць», «як пасуць жывёлу», «як ідуць у ягады». Тыпавыя вясельныя напевы — неад'емны кампанент абраду і рытуалу. Ступень іх абагульненасці бывае рознай: адзін напеў можа абагульняць паэтычныя тэксты ўсяго абрадавага цыкла (з пачатку і да канца вяселля), кульмінацыйныя моманты рытуалу (прыезд жаніха, пасад, ад'езд маладой з бацькоўскага дому) або асобныя яго элементы (як «вяселле зачынаюць», «як ідзе замуж сірата»). На радзінах найбольш абагульняльную значнасць набываюць тыпавыя напевы да парадзіхі і бабкі, а таксама да дзіцяці, бацькі, кумоў. Сярод умоўна прымеркаваных у сямейна-абрадавым цыкле (перш за ўсё радзінным) найбольш пашыраны бяседныя. Другі яркі і разгорнуты гісторыка-стылявы пласт нар. песнятворчасці складаюць песні, што ўзніклі ў эпоху фарміравання бел. народнасці (14—16 ст.) і ў часы сялянскіх паўстанняў (17—18 ст.): мужчынская сацыяльная лірыка і эпас (чумацкія, бурлацкія, казацкія, рэкруцкія песні, пра ваенныя падзеі і важакоў сялянскіх паўстанняў, пазней песні салдацкія), а таксама лірыка сямейна-бытавая і любоўная. Ад стараж. песеннага пласта гэтыя песні адрозніваюцца непрымеркаванасцю выканання (іх спяваюць «абы-калі»), прымацаваннем напеваў да пэўнага тэксту і яркай індывідуалізацыяй музычна-паэтычнага вобраза. З песнямі другога гісторыка-стылявога пласта звязана развітае шматгалосае выкананне. На Палессі падгалоскава-поліфанічнае шматгалоссе вядома як спеў «з падводкай». Сучасная песнятворчасць спалучае стылявыя рысы традыцый нар. песень лірычнага і жартоўнага характару з песнямі літаратурнага паходжання. Сярод гэтых песень найбольш характэрныя для Беларусі партызанскія.

Асобнае месца ў сістэме духоўнай культуры беларусаў належыць інструментальнай музыцы. Будучы знітаваным з самымі рознымі сферамі нар. жыцця (працай, каляндарнай і сямейнай абраднасцю, звычаямі, адпачынкам і інш.), перадаючы багатыя ў сваіх адценнях пачуцці народа, інструментальны фальклор з'яўляецца перш за ўсё выразнікам жыццярадаснага светаадчування і светаўспрымання, носьбітам і ўзбуджальнікам весялосці, урачыста-прыўзнятага настрою. Агульнапрызнаная думка аб святочнай, «вясёлай» прыродзе інструментальнай музыкі сканцэнтравана выказана ў прыпеўцы: «На вуліцы калюжа, ляжыць баба нядужа,//Як музыкі зачуе, то й лежачы танцуе!» Для выканання найгрышаў беларусы выкарыстоўваюць розныя тыпы музычных інструментаў, многія з якіх даволі ўстойліва замацаваны з пэўнымі ўзроставымі і прафесійнымі групамі вясковага насельніцтва (гл. *Дудка, Ліра, Мандаліна, Рог, Труба* і інш.). Спецыфічныя ўмовы бытавання музычных інструментаў уплываюць на фарміраванне рэпертуару нар. выканаўцаў. Інструментальны фальклор, будучы традыцыйна звязаны з многімі бакамі жыцця і рознымі відамі нар. творчасці (песенным, харэаграфічным, вусна-паэтычным, тэатрам), ахоплівае найгрышы, разнастайныя паводле сваіх вытокаў, вобразна-эмацыянальнага зместу і стылістыкі, прызначэння і форм выканальніцкага бытавання. У залежнасці ад сувязі найгрышаў з першапачатковымі жанравымі вытокамі — сігнальнасцю, дэкламацыйнасцю, гукапераймальнасцю, распеўнасцю і маторнасцю — яны падзяляюцца на некалькі жанравых груп: сігнальныя, гукавыяўленчыя, песенныя і танцавальныя (да апошніх далучаюцца і маршы). Да найбольш стараж. пластоў належаць найгрышы сігнальныя, спрадвеку і амаль да нашага часу звязаныя з побытам пастухоў, паляўнічых, лесарубаў і вартаўнікоў, каляндарна-земляробчымі абрадамі, і гукавыяўленчыя, якія імітуюць галасы птушак і жывёл, моўныя інтанацыі, галашэнні маладой і яе маці на вяселлі, характэрнае гучанне розных музычных інструментаў, «замалёўкі» прыроды. Ядро інструментальнага фальклору ўтвараюць песенныя і танцавальныя найгрышы, багацце і разнастайнасць якіх шмат у чым абумоўлены развітасцю і шматсастаўнасцю песеннай і танцавальнай культуры беларусаў. Некалькі асобнае месца займаюць імправізацыйныя найгрышы (паводле нар. тэрміналогіі — музыка грае «сам па сабе», «сам уздумаў») песеннага або песенна-танцавальнага характару. На Беларусі пашыраны традыцыі як сольнага, так і ансамблевага (уласна інструментальнага і вакальна-інструментальнага) музіцыравання.

У сучасным побыце вёскі Н. м. існуе і ў спрадвечных формах аўтэнтычнага фальклору, і ў другасных, гал. чынам сцэнічных формах — арганізаванай мастацкай самадзейнасці. У спантанных праяўленнях музычнага побыту (карнавалізаваных абходах двароў на калядах і ў вялікдзень, веснавых «выхадах на вуліцу», на вяселлях, радзінах, традыцыйных бяседах, кірмашах і г. д.)

гал. ролю працягваюць адыгрываць самабытныя творчыя носьбіты мясцовых традыцый: славутыя майстры галаснога спеву на адкрытым паветры («першыя спевакі, над якімі няма спевака»), майстры нар. цыманіялаў, абрадаў і звычаяў — знаўцы нар. «векавечнага парадку». *З. Я. Мажэйка, І. Дз. Назіна.*

**НАРОДНАЯ ПАЭТЫЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ,** вусная народная творчасць, фальклор, від мастацкай творчасці народа, што адлюстроўвае рэчаіснасць у вобразах, створаных паэтычным словам. Важная і неад'емная частка духоўнай культуры бел. народа. Адлюстравала яго гісторыю і працоўны вопыт, грамадска-паліт. і эстэтычныя ідэалы, мары і спадзяванні. Агульная спадчына усх. славян, з якой вырасла вусная паэзія рускіх, беларусаў і украінцаў — фальклор Кіеўскай Русі. Гэта абумовіла шмат агульнага ў жанрава-відавой сістэме, ідэйна-тэматычным змесце і паэтыцы вусна-паэтычных твораў усх.-слав. народаў. Гісторыя непасрэдна бел. Н. п. т. пачынаецца з перыяду складвання бел. народнасці (14—16 ст.).

Адзін з самых стараж. жанраў бел. фальклору — замовы, вобразная паэтычная форма якіх грунтуецца на *магіі* слова і, нярэдка, на адпаведных магічных дзеяннях. Узніклі ў той час, калі першабытны чалавек адухаўляў прыроду. Гал. функцыяй замоў была утылітарна-магічная — падпарадкаваць гасп. і жыццёва-бытавым мэтам чалавека прыродныя, а пазней — і грамадскія сілы. Змест замоў ахоплівае ўсю яго дзейнасць: замовы пры паляванні, земляробстве, жывёлагадоўлі, супраць злых звышнатуральных істот (лясных, хатніх, вадзяных і інш.), розных хвароб (зубнога болю, ліхаманкі, укусу гадзюкі, рожыстага запалення, крывацёку, спалоху і інш.). Шмат замоў звязана з любоўнай і сямейна-бытавой магіяй. У некаторых замовах пазнейшага паходжання адлюстравалася сацыяльная няроўнасць, пратэст супраць жорсткай эксплуатацыі працоўных і несправядлівасці. На змест і форму замоў паўплывала хрысціянская рэлігія. У вобразную маст. форму твораў упляліся элементы царкоўных малітваў, вобразы хрысціянскіх святых і інш. З развіццём вытворчых сіл, грамадскіх адносін і ростам асветы бытаванне замоў пачало звужацца, а цяпер амаль зусім спынілася.

Багаццем паэтычных фарбаў і разнастайнасцю зместу характарызуецца *каляндарна-абрадавая паэзія* і *сямейна-абрадавая паэзія*. Да каляндарна-абрадавай адносяцца зімовыя, веснавыя, летнія і восеньскія цыклы, цесна звязаныя з земляробчымі і жывёлагадоўчымі клопатамі селяніна. Цікавыя бел. калядкі і шчадроўкі. У песнях гэтага цыкла адбіліся клопаты працоўных аб будучым ураджаі, хатня-сямейным дабрабыце, здароўі і шчасці. Значнае месца займалі любоўная і сямейная тэматыка, жартоўныя творы. Папулярнай была гульня *«Жаніцьба Цярэшкі»*, прыпеўкі якой вядомы ў сотнях варыянтаў. У беларусаў менш, чым у рус. народа, былі пашыраны масленічныя абрады (гл. *Масленіца)* і песні, прысвечаныя развітанню з зімой, сямейным узаемаадносінам, бытавым з'явам. Мелодыка масленічных песень бліжэй да веснавых, што абумоўлена іх пераходным характарам. Адметнасцю вызначаецца бел. веснавая паэзія, якая адлюстроўвала радасць земляроба ў сувязі з абуджэннем прыроды, надыходам сяўбы, выганам у поле жывёлы. Да гэтага цыкла адносяцца вяснянкі, валачобныя, карагодныя, юраўскія, траецкія, русальныя песні. Гал. змест вяснянак — «замыканне» зімы і закліканне лета. Спецыфіку бел. земляробчага календара складаюць валачобныя песні, што сваім зместам і структурай нагадваюць калядкі, аднак у іх больш выразна выступае працоўная аснова, сялянскі клопат пра будучы ўраджай. Спяваліся яны ў час абходу *валачобнікамі* сялянскіх двароў. У гэтых песнях славіліся гаспадар і яго сям'я, паказваўся плён іх працы («дзіва») у гіпербалізаваным і ідэалізаваным выглядзе; памочнікамі селяніна часам выступалі бог і святыя, якія замянілі язычніцкіх багоў. Як і калядкі, валачобныя песні заканчваліся напамінкам пра падарункі валачобнікам. Юраўскія песні прымяркоўваліся да свята *Юр'я*, калі звычайна першы раз выганялі на пашу жывёлу, і адлюстроўвалі імкненне селяніна забяспечыць багаты ўраджай і памнажэнне статку. Траецкія, або сёмушныя, песні былі звязаны з культам раслін, абрады ў гонар якіх пастулова знікді. Найб. папулярнымі былі песні пра каханне. У русальных песнях (гл. *Русаллі)* адлюстраваліся ўяўленні аб міфалагічных істотах — *русалках*. Функцыянальная накіраванасць гэтых твораў — захаванне жыта ад сіл, якія могуць пашкодзіць ураджаю. Вялікае пашырэнне мелі *карагоды*. Іх вадзілі пад песні, тэматыка якіх звязана гал. чынам з працай, сямейнымі і дашлюбнымі ўзаемаадносінамі. Земляробчыя і любоўныя матывы пераважалі і ў куставых (гл. *Куст*) песнях, пашыраных у паўд.-зах. і цэнтр. раёнах Палесся. З летняга цыкла найб. папулярнымі былі купальскія (гл. *Купалле*) і жніўныя абрады і песні. У купальскіх песнях (многія з іх маюць выразны баладны характар) адбіліся анімістычныя погляды сялян, адносіны ў сям'і (часцей за ўсё паміж нявесткай і свякрухай), пачуцці закаханых. Галоўным вобразам многіх песень выступае міфалагічная істота — Купала, якая займаецца гасп. справамі. Шматлікія песні ўслаўляюць хараство дзяўчыны, яе працавітасць. Жніўныя, у т. л. зажынкавыя і дажынкавыя, песні адлюстравалі завяршальны этап земляробства — уборку ўраджаю, а таксама сацыяльныя адносіны, нянавісць да паноў-прыгоннікаў, пратэст супраць жорсткага прыгнёту. Сацыяльная несправядлівасць, сямейныя пелады адлюстраваны і ў касецкіх песнях. Завяршаецца земляробчы каляндар восеньскімі песнямі, да якіх адносяцца ярныя (песні яравога жніва), песні пры ўборцы лёну, гародніны і інш. Асноўныя тэмы іх — замужжа дзяўчыны, сямейнае жыццё, перажыванні лірычнай гераіні. Восеньскія песні характарызуюцца паказам душэўнай прыгажосці дзяўчыны, раскрыццём глыбіні яе пачуццяў, высокай маральнай чысціні. У іх большую ролю адыгрывае паэтызацыя прыроды, асабліва пры раскрыцці лірычнага настрою гераіні. Адметнасць бел. восеньскіх песень выяўляецца ў прыгожых самабытных мелодыях. Вясною пры вывазцы гною, у час жніва і ўвосень пры ўборцы і апрацоўцы лёну, сяўбе азімых, а таксама пры перавозцы і ўстаноўцы зруба выконвалі талочныя песні, якія суправаджалі *талаку*. Функцыянальнасць каляндарна-абрадавых песень з цягам часу мянялася. У старажытнасці гал. функцыяй была утылітарна-магічная, потым абрады страцілі свой рытуальны характар.

Сямейна-абрадавая паэзія звязана з жыццём і смерцю чалавека. Ідэйнамаст. адметнасцю вылучаецца радзінная паэзія. Яна лепш захавалася ў беларусаў у параўнанні з інш. слав. народамі. Цікавыя і змястоўныя хрэсьбінныя песні, што выконваліся ў час сяткавання нараджэння і хрышчэння дзіцяці. Яны падзяляюцца на велічальныя, жартоўныя і застольна-бяседныя. Велічальныя песні славяць маці і бацьку дзіцяці, бабку, кума і куму, зычаць шчасця нованароджанаму. У жартоўных песнях гучыць дасціпны смех з кума і кумы, бабкі і інш. удзельнікаў застолля. Многія застольна-бяседныя песні мала або зусім не звязаны з падзеяй нараджэння ці хрышчэння дзіцяці і выконваліся ў любы час. Радзінныя песні добра захаваліся ў памяці народа, але рэдка бытуюць у выкананні сучаснікаў. Больш папулярная сёння вясельная паэзія. Традыцыйныя абрады і песні нярэдка ўваходзяць у новыя шлюбныя абрады. Народныя песні спявалі на ўсіх этапах *вяселля:* у час *заручын*, *суборнай суботы*, падрыхтоўкі караваю, пасаду нявесты і жаніха, шлюбавін, перад вянчаннем і пасля яго, на вясельным застоллі, гасцінах, перазовах. У заклінальных і велічальных песнях услаўляліся маладыя, іх прыгажосць, працавітасць. На вяселлі гучалі пажаданні ім вечнага кахання, шчасця, дабрабыту. Паэтычным хараством, добразычлівым гумарам вызначаюцца каравайныя песні, у якіх шанаваўся хлеб — сімвал дастатку будучай сям'і. Шмат выконвалася сатырычных і гумарыстычных песень і прыпевак. Выконвалася шмат песень, у якіх гучала скарга нявесты, павянчанай з нялюбым, сумам прасякнуты песні сіраты. Да сямейна-абрадавай паэзіі належаць таксама хаўтурныя галашэнні — імправізацыйныя творы, у якіх адлюстрава-

ліся гора і боль, глыбокі жаль з выпадку смерці роднага або блізкага чалавека. Гэтыя творы характарызуюцца эпічнасцю апавядання пра жыццё нябожчыка. Паэтыка галашэнняў багатая эмацыянальна насычанымі маст. выяўленчымі сродкамі.

У пазаабрадавай бел. паэзіі вылучаюцца песні пра каханне, сямейна-бытавыя, сацыяльна-бытавыя, сатырычныя і гумарыстычныя. У лірычных любоўных песнях паэтызуецца каханне, з замілаваннем і пяшчотай малююцца вобразы дзяўчыны і хлопца, выяўляюцца іх пачуцці, душэўная шчодрасць. У сямейна-бытавых песнях паказвалася горкая жаночая доля, гаротнае жыццё з нялюбым чалавекам, цяжкая праца, здзекі мужа і яго бацькоў. Сацыяльна-бытавыя песні ўключаюць казацкія, рэкруцкія, салдацкія, антыпрыгонніцкія, чумацкія, бурлацкія, батрацкія, прымацкія і інш. У іх гучаў пратэст супраць несправядлівага набору рэкрутаў, салдацкай муштры, жорсткага прыгнёту паноў-прыгоннікаў, здзекаў кулакоў з сялян-батракоў, паказваўся незайздросны лёс прымакоў. Барацьба бел. і ўкр. народаў за вызваленне ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту адлюстравана ў казацкіх песнях. Нешчаслівая доля чумака, цяжкасці яго жыцця і працы на чужыне, хвароба і смерць — асн. змест чумацкіх песень. У сатырычных і гумарыстычных песнях народ бязлітасна высмейваў ворагаў працоўных — пана, цара, папа, ксяндза, багацея і інш. Дасціпна асуджаюцца ў жартоўных песнях заганы людзей: гультайства, нядбайства, п'янства, ашуканства і інш. Ліраэпічны характар маюць балады, з якіх вылучаюцца творы з міфалагічнымі матывамі, казачныя і легендарныя, навелістычныя і карагодна-гульнёвыя. У іх выяўлены ідэалы дабра і справядлівасці, высакародства і сумленнасці, імкненне народа да свабоды і шчасця. Многія балады маюць агульныя сюжэты з украінскімі, а некаторыя — з рускімі і баладамі зах.-слав. народаў. Аператыўнасцю і надзённасцю вызначаецца бел. прыпеўка — жанр, які жыве і ў сав. час.

Папулярныя ў народзе празаічныя эпічныя творы — казкі, легенды, паданні, анекдоты і жарты. Асн. жанравыя разнавіднасці казак: пра жывёл, чарадзейныя і сацыяльна-бытавыя. Менш пашыраны казкі кумулятыўныя, авантурныя, навелістычныя, дакучныя. У казках пра жывёл дзеючымі асобамі выступаюць прадстаўнікі жывёльнага свету, у вобразах якіх адлюстроўваюцца з'явы з жыцця людзей. У казачным эпасе бел. народа колькасна пераважаюць чарадзейныя казкі, у якіх дзейнічаюць героі, здольныя на незвычайныя ўчынкі, нярэдка яны разам з памочнікамі перамагаюць злосных пачвар. У гэтых казках выявіліся мары чалавека пра лепшае жыццё. Больш позняга паходжання сацыяльна-бытавыя казкі. У іх адлюстраваны рост класавай свядомасці працоўных, барацьба супраць сац. няроўнасці. Асноўным у гэтых казках з'яўляецца канфлікт паміж селянінам і памешчыкам, у выніку якога перамагае селянін. Бытавыя казкі сцвярджалі ідэал нар. героя — смелага, мудрага, дасціпнага і рашучага. Ідэйна-тэматычны ахоп рэчаіснасці ў бел. сацыяльна-бытавых казках надзвычай шырокі: у іх адлюстроўваюцца цяжкае жыццё прыгоннага сялянства, антаганістычныя супярэчнасці ў класавым грамадстве, высмейваюцца эксплуататары працоўных, выкрываецца рэакцыйная сутнасць царквы, крытыкуюцца людскія заганы і недахопы. У легендах фантастычныя вобразы, падзеі і з'явы выдаюцца як верагодныя, што нібыта існавалі ў рэчаіснасці; народ імкнуўся вытлумачыць гіст. і прыродныя з'явы, выказаць свае погляды на сусвет, грамадскія адносіны і інш. Найбольш старажытныя — касмаганічныя легенды: пра паходжанне Зямлі, Сонца, зорак. Пашыраны таксама тапанімічныя паданні — пра ўзнікненне краін, гарадоў, вёсак, азёр, рэк, іх назваў; этнагенічныя — пра паходжанне народаў, плямён; гісторыка-гераічныя — пра важныя падзеі, асоб; рэлігійныя — пра Ісуса Хрыста, святых і інш. У паданнях ад імя сведкі або ўдзельніка падзей апавядаецца пра сапраўдныя ці магчымыя здарэнні, рэальных асоб. У адрозненне ад легенд у іх адсутнічае чарадзейнае, фантастычнае. Асаблівую цікавасць маюць паданні пра татар і шведаў, Айчынную вайну 1812, Вял. Айчынную вайну 1941—45. Пашыраны былі анекдоты і жарты. У іх бел. народ выкрываў дэспатызм і жорсткасць, прагнасць і крывадушша паноў, паноў і інш. прыгнятальнікаў. У антырэліг. анекдотах і жартах крытыкуецца свяшчэннае пісанне, раскрываецца шкоднасць рэлігійных абрадаў. У час Вял. Айчыннай вайны нар. анекдоты і жарты развенчвалі міф аб непераможнасці гітлераўскай арміі, у карыкатурным выглядзе малявалі Гітлера і яго прыспешнікаў.

Працоўны і жыццёвы вопыт, нар. мудрасць, светапогляд працоўных, іх эстэт. і маральна-этычныя ідэалы трапна і лаканічна адлюстраваліся ў прыказках, прымаўках, загадках, крылатых выразах. У прыказках эпохі феадалізму паказвалася бяспраўнае становішча прыгонных сялян, здзекі з іх паноў і прыгнятых. Эксплуататарскую сутнасць царызму, царквы і рэлігіі выкрывалі прыказкі эпохі капіталізму. Многія прыказкі прысвечаны сям'і, выхаванню моладзі, наказу ўзаемаадносін у грамадстве. Адлюстроўваюць прыказкі і канкрэтныя гіст. падзеі, духоўную веліч працоўных, іх здольнасць па-філасофску асэнсоўваць рэчаіснасць пры дапамозе маст. вобразаў. Да прыказак блізкія па структуры і вобразнасці загадкі. Сфера асэнсавання жыцця ў іх таксама вялікая: прырода і яе з'явы, чалавек, гаспадарка, матэрыяльная культура, сямейны і грамадскі побыт. Вялікую цікавасць уяўляюць трапныя выразы, віншаванні, тосты, праклёны, зычэнні і інш. выслоўі і крылатыя выразы.

Значную эстэтычна-выхаваўчую ролю адыгрывае дзіцячы фальклор: калыханкі, забаўлянкі, дзіцячыя песенькі, заклічкі, дражнілкі, лічылкі, гульні. З маленства творы гэтых жанраў уваходзяць у духоўнае жыццё дзяцей, фарміруюць іх маст. густы, даюць уяўленне аб навакольнай рэчаіснасці, вучаць пазнаваць дабро і зло. Калыханкі і забаўлянкі знаёмяць дзіця з жывёльным светам, меладычна-тужлівымі спевамі заспакойваюць немаўлят, навяваюць сон. У дзіцячых песнях вобразы жывёл персаніфікуюцца, атаясамліваюцца з чалавечымі, асэнсоўваюцца паэтычнымі сродкамі і далучаюць малых да мастацтва. З абрадавай паэзіі перайшлі ў дзіцячы фальклор заклічкі, якія спяваюцца дзяцьмі, каб выклікаць або спыніць дождж і інш. з'явы прыроды і грамадства. Сатырычна-гумарыст. характар маюць дражнілкі, якімі дзеці карыстаюцца пры спрэчках або з мэтаю высмеяць каго-небудзь. Надзвычай разнастайны гульнёвы фальклор: лічылкі, прыгаворкі, вершы або песні, што арганічна ўваходзяць у гульні. Гульні садзейнічаюць фізічнаму і разумоваму развіццю дзіцяці, развіваюць кемлівасць, прывучаюць да сяброўства і ўзаемавыручкі. Паэтыка дзіцячых фальклорных твораў, іх эмацыянальная выразнасць адчувальна ўплываюць на ўспрыняцце дзіцем вобразнасці песень і вершаў.

Жанравы састаў бел. фальклору мала чым адрозніваецца ад жанравага саставу рус. і ўкр. фальклору. Спецыфіку бел. вусна-паэтычнай творчасці складаюць валачобныя, хрэсьбінныя і восеньскія песні. У беларусаў няма былін, як у рускіх, і дум, як у ўкраінцаў. Агульныя вытокі і цеснае ўзаемадзеянне культур спрыялі развіццю агульнаславянскіх традыцый і нацыянальна адметных рыс.

Функцыянальнасць Н. п. т. ў працэсе яе развіцця і фарміравання традыцый не заставалася нязменнай. Асноўныя жанры бел. фальклору ўзніклі ў глыбокай старажытнасці, у эпоху феадалізму дасягнулі найб. развіцця, захавалі сваю жыццяздольнасць і пазней. Развіццё вытворчых сіл і ўзнікненне новых грамадскіх адносін адбівалася і на ідэйным змесце традыцыйных твораў. Многія з іх трансфармаваліся і змяняліся, паказвалі змены ў жыцці і свядомасці народа. Большасць традыцыйных фальклорных твораў працягвала жыць, адлюстроўваць інтарэсы народа, яго надзеі, думкі і пачуцці, эстэтычныя і этычныя ідэалы, светапогляд. Песенная творчасць адлюстравала ўнутраны свет простых людзей, глыбіню іх перажыванняў, маральную чысціню, адносіны ў грамадстве. З развіццём рэв. руху большае месца ў ёй пачалі займаць матывы сац. пратэсту, пашырыліся вострыя сатырычныя творы, якія выхоўвалі ў працоўных нянавісць да эксплуататараў, высмейвалі тое, што аджыло свой век. Казачныя традыцыі

развіваліся запаволена і неаднолькава ў залежнасці ад жанравых разнавіднасцей. У эпоху капіталізму амаль не ствараліся новыя казкі пра жывёл і чарадзейныя, але ў іх змест уваходзілі новыя матывы і ідэі. Характэрнай з'явай стала ператварэнне этыялагічных легенд і твораў на біблейскія сюжэты ў сатырычныя пародыі. У нар. творах большае месца пачалі займаць праблемы крыніц багацця, находжання золата, грошай і іх сутнасці. Больш увагі аддавалася псіхалагічнай характарыстыцы персанажаў. Узніклі пераходныя творы з рысамі казак і апавяданняў.

Савецкая Н. п. т. успрыняла лепшыя традыцыі дарэв. фальклору, але актыўнасць бытавання яго асн. жанраў і відаў не была аднолькавай у розныя перыяды. У першыя гады Сав. улады бытавалі творы амаль усіх жанраў бел. фальклору, але паступова, са зменамі ў сац. жыцці народа, змяняліся іх змест і форма. Захавалі папулярнасць песня, прыпеўка, сказ, вуснае апавяданне, анекдот, жарт, прыказка, прымаўка і загадка. Паступова слабела казачная традыцыя; узніклі толькі адзінкавыя творы гэтага жанра. Аналагічнае становішча з легендамі і паданнямі. У фальклорных творах услаўляецца Вял. Кастрычнік, Камуніст. партыя. Адлюстроўваючы гераічную барацьбу сав. людзей супраць контррэвалюцыі і інтэрвенцыі, бел. працоўныя стварылі яркія вобразы герояў грамадзянскай вайны С. Будзённага, В. Чапаева, М. Шчорса. Нянавісць да белагвардзейцаў і інтэрвентаў народ трапна выказаў у сатырычных творах. Тэма грамадзянскай вайны была актуальнай і ў перыяд аднаўлення гаспадаркі і рэканструкцыі. У гэты час узнікла шмат твораў, у якіх адлюстравалася новае жыццё народа, будаўніцтва фабрык і заводаў, паказаны дасягненні ў навуцы і культуры. Ваяўнічы характар набыла антырэлігійная творчасць. Вялікай папулярнасцю карысталіся творы, прысвечаныя У. І. Леніну, Камуніст. партыі. У іх выказана шчырая любоў народа да правадыра (казкі «Ленінская праўда», «Вялікі багатыр» і інш.; песні «Ленін», «Мы — Леніна племя» і інш.). У гады Вял. Айчыннай вайны павысілася цікавасць да вусна-паэтычнай творчасці. Многія традыцыйныя творы адраджаліся; значна змененыя або проста трансфармаваныя, яны адлюстроўвалі падзеі вайны, выказвалі пачуцці, настрої і перажыванні сав. людзей (песні «У нядзелю рана», «Пад дрэвам зялёным», «Калі груша ўзышла, калі груша вырасла» і інш.). У многія салдацкія песні ўведзены вобразы новых герояў, іх подзвігі раскрываюцца ў новых умовах у параўнанні з традыцыйнымі песнямі («У полі пшанічанька, пшанічанька яра»). Настроям сав. людзей, якія жылі на акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі, імпанавалі песні з заклікам да змагання за свабоду. Старыя песні набывалі вял. папулярнасць перш за ўсё таму, што змест іх асацыіраваўся з пэўнымі эпізодамі з жыцця сав. людзей, адпавядаў іх перажыванням. Пашырэнню песень садзейнічала пераасэнсаванне традыцыйных сюжэтаў у адпаведнасці з новымі падзеямі і настроямі народа, у якога ў горы і радасці ўзнікала патрэба выказаць свае пачуцці ў песеннай форме. Пераапрацаваныя і новыя творы гэтага перыяду заклікалі да барацьбы з ворагам, натхнялі воінаў Чырвонай Арміі і партызан на гераічныя подзвігі, выказвалі веру ў нашу перамогу над ворагам. Народныя творы паказвалі злачынствы гітлераўцаў, іх здзекі з насельніцтва акупіраваных сав. зямель, паднявольнае жыццё людзей, якіх фашысты выганялі на катаржную працу ў Германію (напр., песні паланянак). Нямала твораў прысвечана героям Вял. Айчыннай вайны — К. Заслонаву, Ц. Бумажкову, С. Каўпаку і інш. Многія творы пра выпрабаванні ў час вайны не страцілі сваёй папулярнасці і ў пасляваенныя гады. Важнейшай стала тэма аднаўлення і развіцця нар. гаспадаркі. Сучасная нар. творчасць славіць людзей працы, актыўна змагаецца за мір. Негатыўныя з'явы высмейваюцца ў нар. жартах, прыпеўках. Сягоння бытуе значная частка традыцыйнай нар. творчасці, яна адпавядае эстэтычным запатрабаванням сав. народа, трывала ўвайшла ў рэпертуар сучаснай бел. вёскі і горада. Характэрна пашырэнне сувязей нар. творчасці з прафесійным мастацтвам і літаратурай, узрастанне індывідуальнага пачатку. Народная творчасць усебакова раскрывае веліч маст. генія народа, высакароднасць яго сац. і маральна-этычных ідэалаў, яна была і застаецца багатай крыніцай для пісьменнікаў, кампазітараў, дзеячаў выяўленчага мастацтва. Найбольш поўна бел. фальклор усіх асн. жанраў апублікаваны ў шматтомным зборы «Беларуская народная творчасць», выдадзеным Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (Дзярж. прэмія БССР 1986).

*А. С. Фядосік.*

**НАРО́ДНАЯ ТВО́РЧАСЦЬ,** народнае мастацтва, фальклор, мастацкая калектыўная творчая дзейнасць працоўнага народа, якая адлюстроўвае яго жыццё, погляды, ідэалы; створаныя народам і што бытуюць у народных масах паэтычныя творы (гл. ў арт. *Народная паэтычная творчасць*), музыка (гл. ў арт. *Народная музыка*), тэатр (гл. ў арт. *Народны тэатр*), танец (гл. ў арт. *Народны танец*), выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва (гл. ў арт. *Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва*). У шырокім сэнсе Н. т.— усе віды непрафесійнага мастацтва (самадзейнае мастацтва). Вывучэннем Н. т. займаюцца фалькларысты, этнографы, мастацтвазнаўцы.

**НАРО́ДНАЯ ХАРЭАГРА́ФІЯ.** Беларускае нар. харэаграфічнае мастацтва бярэ свой пачатак у глыбокай старажытнасці. Яго элементы зарадзіліся яшчэ ў эпоху фарміравання ўсх.-слав. плямён і, прайшоўшы праз этап гіст. еднасці славян у Стараж. Кіеўскай дзяржаве, леглі ў аснову самабытнай танцавальнай творчасці, развіццё якой адбывалася ў працэсе фарміравання бел. народнасці, а потым і нацыі. Амаль да нашага часу бытавалі ў беларусаў, а некаторыя бытуюць і цяпер, такія старадаўнія абрады, святы, гульні, як *каляды, купалле, дажынкі, «Жаніцьба Цярэшкі», «Страла», «Куст», «Каза»*, танец-гульня *«Зязюля»*, шматлікія вясельныя звычаі (гл. *Вяселле*) і інш. Значнае месца ў іх займалі харэаграфічныя элементы, цесна звязаныя з песняй, драматызаваным гульнёвым дзеяннем. Паступова танцавальнае мастацтва вылучылася з агульнага сінкрэтызму, стала на самастойны шлях развіцця і выкрышталізавалася ў асобны, па-мастацку завершаны від нар. творчасці (гл. *Народны танец*).

Адным з найстаражытных на Беларусі харэаграфічных жанраў, які захаваў сувязь з каляндарна-земляробчай і сямейна-бытавой абраднасцю, з традыцыямі першабытнага сінкрэтызму, з'яўляецца *карагод*. Паводле структурных і стылявых асаблівасцей ён займае як бы сярэдзіну трохвугольніка, утворанага трыма сумежнымі жанрамі фальклору — песняй, гульнёй, танцам, і мае комплекс падобных на іх рысаў. Адпаведна з гэтым бел. карагоды падзяляюцца на 3 групы: карагодныя песні, гульнёвыя карагоды (з падгрупай карагодных гульняў) і карагодныя танцы. У карагодных песнях пры арганічным сплаве тэксту, мелодыі і харэаграфічнага дзеяння большае значэнне мае мелодыя; для іх характэрны нескладаны прасторавы малюнак і простае харэаграфічнае дзеянне (просты, велічны, урачысты крок, крок з прыстаўкай і інш.). У харэаграфіі адсутнічае прамое адлюстраванне тэксту песень. Яскравыя прыклады карагодаў гэтай групы — «Страла» (выканаўцы з песняй, узяўшыся за рукі, ідуць на ўскраіну вёскі), «Вуліца мала, карагод вялік», «Завілася пчолка», «Ох, ты, бяроза» і інш., дзе пад павольны рух удзельнікамі выпяваецца эпічны, лірычны і драматычны змест песень, «крывыя танкі» («Лука»), дзе спевакі рухаюцца, малюючы на плоскасці розныя крывыя акружнасці, ад здвоенай васьмёркі да асіметрычных фігур. У гульнёвых карагодах дасягаецца найбольш поўнае адзінства ўсіх трох кампанентаў, змест раскрываецца сукупнасцю выяўленчых сродкаў паэзіі, музыкі і харэаграфіі. Для паэтычнай і музычнай будовы гэтых карагодаў характэрны дыялагічнае выкладанне сюжэта, апавядальны тон, больш хуткі тэмп і выразны рытм напеву. Нярэдкая з'ява — рытмічная кантрастнасць частак ці мелодый напеву і прыпеву паводле прынцыпу «марудна-хутка», тыповага для музычнай структуры бел. карагодаў. Напевы вызначаюцца індывідуальнай выразнасцю, чаргаваннем мінору і мажору.

Часта сустракаецца выкананне прыпеву («Ой, люлі», «Люшанькі люлі» і г. д.) у трэцяй частцы страфы і паўтарэнне пасля яго другой часткі. Больш разнастайны, у параўнанні з карагоднымі песнямі, малюнак руху карагоду па плоскасці, узбагачаны рухам танцораў двума процілеглымі радамі («А мы проса сеялі»), паўкругавымі і кругавымі кампазіцыямі з вылучэннем у цэнтр салістаў. Багатая танцавальная лексіка, разнастайныя рухі і становішчы рук, узмацненне ролі элемента драматычнага мастацтва, пантамімы, мімікі дапамагаюць выразна раскрыць сюжэт песні. Рухі звязаны з тэкстам і сваім вобразным сэнсам: часта выяўляюць, ілюструюць тое, пра што расказвае фабула песні. Своеасаблівую падгрупу складаюць карагодныя гульні, асабліва блізкія сваім характарам да гульні («Удавец», «Селязень», «Перапёлачка» і інш.). У карагодных танцах вядучая роля належыць харэаграфічнаму пачатку; танец выступае як незалежны і развіты арганізм, здольны ствараць паўнацэнны мастацкі вобраз уласнымі сродкамі. Сувязь харэаграфічнага дзеяння з тэкстам і напевам значна меншая, танец часта надбірае песні, адпаведныя яму паводле рытмічнага малюнка. Паказальны ў гэтых адносінах запісаны на Беларусі К. Галяйзоўскім вясенні карагод, які ўяўляў сабой разгорнутае і вобразнае харэаграфічнае выяўленне працэсу ткацтва. Яго фігуры, названыя «навіваць», «снаваць», «кішку здымаць», «надзяваць», «ткаць», дасціпна ілюстравалі адпаведныя працэсы, а песні, што іх суправаджалі, адносін да іх не мелі. У карагодах Н. х. паступова выпрацоўвала свае ўстойлівыя мастацкія прыёмы, сродкі выразнасці, якія з цягам часу сталі традыцыйнымі, залажылі аснову нацыянальнай харэаграфічнай вобразнасці. Побач з імкненнем да ўпарадкаванасці прыёмаў развівалася і свабодная імправізаванасць, што ў далейшым абумовіла развіццё асобных харэаграфічных жанраў: традыцыйных і імправізацыйных танцаў.

Беларускія танцы вылучыліся з карагодаў (14—16 ст.). Асаблівасці харэаграфічнай структуры дазваляюць падзяліць іх таксама на некалькі груп. Першую, найбольш значную ў мастацкіх і колькасных адносінах, складаюць стараж. традыцыйныя беларускія танцы «Лявоніха», «Мяцеліца», «Качан», «Бычок», «Таўкачыкі», «Крыжачок», «Гняваш», «Кола», «Мікіта», «Чоботы», «Лянок», «Верабей», «Юрачка» і многія іншыя, а таксама запісаныя ў апошнія гады «Малаточкі», «Певень», «Дожджык», «Кабылка», «Млынок», «Боб малаціць» і інш. Для іх структуры характэрны паўтаральнасць двух-трох тыповых для нацыянальнай харэаграфіі музычна-пластычных формул, агульны для ўсіх удзельнікаў кампазіцыйны малюнак, масавае выкананне, частае песеннае суправаджэнне, неабмежаваная колькасць удзельнікаў і любы іх склад (нярэдка танцуюць пераважна жанчыны). Для музычнай структуры характэрны чэсцей за ўсё памер $^2/_4$ (сустракаюцца і інш. памеры), квадратнасць пабудовы мелодыі (сіметрычнасць чаргавання музычных фраз і сказаў), відавочная сувязь з песняй. Інструментальнае суправаджэнне танца мае нярэдка тую ж ладава-інтанацыйную аснову, што і карагодная песня. Кароткія песні, якімі часта суправаджаецца выкананне танцаў у нар. побыце,— у большасці выпадкаў скарочаныя, «астаткавыя» тэксты карагодных песень. Інструментальнае суправаджэнне мянялася ад эпохі да эпохі. Даўней асаблівай павагай карысталіся дудары. «Без дуды, без дуды // Ходзяць ногі не туды, // А як дуду пачуюць, // Самі ногі танцуюць»,— прыпявалі беларусы. Побач з дудою ў 19 ст. танцам акампаніравалі скрыпка, цымбалы і бубен, пазней — дзве скрыпкі і басэтля складалі своеасаблівы нацыянальны аркестр, т. зв. траістую музыку. У 2-й пал. 19 ст. ў нар. побыт увайшоў гармонік. У наш час гармонік, баян, акардэон, а на вяселлях часам вакальна-інструментальныя ансамблі амаль зусім выцеснілі інш. музычныя інструменты.

У традыцыйных бел. танцах умоўна можна вылучыць ілюстрацыйна-выяўленчыя, гульнёвыя і арнаментальныя танцы. Ілюстрацыйна-выяўленчыя танцы («Мяцеліца», «Верабей», «Мяцёлачка», «Каза», «Лянок», «Кросны», «Жураўель», «Ланцуг», «Таўкачыкі», «Жабка», «Шаўцы», «Мельнік» і інш.) найбольш непасрэдна адлюстроўваюць назіранні над навакольнай рэчаіснасцю, працэсы працы, у мастацкай форме ўзнаўляюць з'явы прыроды, імітуюць звычкі жывёл і птушак. Значную ролю ў гэтых танцах адыгрываюць элементы драматычнага майстэрства. Ад танцора патрабуецца здольнасць перадаваць змест рухам, мімікай. У танцы «Сплюшка», напр., ён павінен выразна паказаць чалавека, які засынае на хаду, у «Жабцы» выканаўцы пераймаюць скокі жаб. У гульнёвых танцах дамінуюць моманты гульні, саперніцтва. Частыя ў іх змены партнёраў і матываў аднаго лішняга, лоўля танцорамі адзін аднаго, спаборніцтва ў спрыце, хуткасці, музычнасці. Асноўны малюнак арнаментальных танцаў — геаметрычны ўзор, арнамент («Крыжачок», «Кола», «Траян», «Крутуха», «Даўжок», асобныя варыянты «Лявонікі» і інш.). Для іх характэрна масавае і парна-масавае выкананне; амаль зусім адсутнічае сюжэтнасць, затое багаццем і фантазіяй вызначаюцца прасторавыя малюнкі.

З сярэдзіны 19 ст. ў бел. харэаграфічным мастацтве пачалася асіміляцыя традыцыйнага фальклору з танцавальнымі формамі *кадрылі* і *полькі*, што прыйшлі з Зах. Еўропы. З часам яны значна мадыфікаваліся, набылі лакальныя стылявыя асаблівасці і нацыянальны характар. Кадрылі ўтварылі другую вялікую групу бел. танцаў. Асноўная прыкмета іх — цотная колькасць пар (4, 8, 6, 12) па вуглах квадрата або ў дзве шарэнгі, крыжападобныя пераходы пар і розныя абмены партнёрамі, вызначаная паслядоўнасць і колькасць фігур (4, 6, 8, 12) і завершанасць пасля іх выканання ўсяго танца, сюітнасць музычнай пабудовы. Разнавіднасцей кадрылі сустракаецца шмат, у т. л. «лінейныя», «касыя», «крыжападобныя», «кругавыя», «у цаўкола» і інш., якія нярэдка ўключаюць у сваю кампазіцыю польку ў экспазіцыі, якінебудзь нар. танец у кульмінацыі і «Лявоніху» ў фінале. Арганічна ўвайшлі ў кадрылі характэрныя для бел. харэаграфічнага фальклору малюнкі, калены, асноўныя хады, рухі і нават фрагменты з нацыянальных танцаў. Этнографы і фалькларысты канца 19 ст. пісалі, што на Беларусі ледзь не кожная вёска мае сваю кадрылю. Захавалася шмат іх назваў: «Воранаўская», «Турэйская», «Грабаўская», «Смаргонская», «Лядкаўская» і інш. Формы кадрылі паўплывалі на развіццё Н. х. Іх элементы сталі састаўной часткай некаторых традыцыйных бел. танцаў, зліліся з формамі полькі, вальса, гарадскіх бытавых танцаў.

Трэцюю групу бел. танцаў складаюць полькі. Гэты старадаўні чэшскі танец быў у пэўнай ступені блізкі бел. харэаграфічнаму фальклору, стаў адным з самых пашыраных і любімых танцаў вёскі, набыў мноства рэгіянальных варыянтаў, зрабіў вялікі ўплыў на ўсю нацыянальную харэаграфію і, у сваю чаргу, сам моцна трансфармаваўся. Так здарылася, напр., з бел. «Трасухай» — у першаснове тыповым нар. танцам, які ў 19 ст. зліўся з полькай і далучыў яе назву да сваёй. «Трасуха» пераняла ад полькі тыповыя для яе вярчэнні, а полька — характэрнае ўстрэсванне верхняй часткі корпуса і рук, прытупы. Бел. полькі багатыя на музычныя і харэаграфічныя малюнкі, вызначаюцца ладавай і інтанацыйнай разнастайнасцю, здольныя перадаваць цэлую гаму мажорных настрояў. Амаль для ўсіх варыянтаў абавязковыя полечныя вярчэнні або іх мадыфікацыі, якія камбінуюцца з інш. элементамі нацыянальнай лексікі: прытупамі, кавырялачкамі, дробушкамі, прысядамі, адкіданнем назад сагнутых у каленях ног, рознымі, у т. л. высокімі, падніманнямі партнёршы і г. д. Пра разнастайнасць лакальных і стылістычных варыянтаў полек сведчаць самі іх назвы: «Гайкаўская», «Барысаўская», «Віцябляначка», а таксама «Рассыпуха», «Шморгалка», «Сядуха», «З прысюдамі», «Драбней маку», «Адбіянка» і інш.

Чацвёртую групу танцавальнага жанру ўтвараюць гарадскія бытавыя танцы, а таксама створаныя на музычнай аснове папулярных песень («Падэспань», «Вянгерка», «Лезгінка», «Месяц», «На рэчаньку», «Лысы», «Субота» і інш.). Некаторыя з іх прыйшлі ў бел. вёску яшчэ ў канцы 19

ст., калі пачалі пашырацца «модныя» бальныя аранжыроўкі нар. танцаў. Асабліва вялікія змены ў танцавальнай творчасці народа адбыліся ў першыя дзесяцігоддзі 20 ст. Амаль па ўсёй Беларусі пашырыліся ў гэты час пэўныя ўзоры бальных і бытавых танцаў, фальклорныя танцы гарадскіх ускраін і суседніх народаў, клішэ з зах. харэаграфіі. Старадаўні танцавальны пласт амаль паўсюдна замяніўся новым, складзеным з танцаў, скантруяваных па новых стандартах. Ім уласціва своеасаблівая «блочная» канструкцыя, абмежаваная колькасць рухаў. Па іх ўзору, па створанаму харэаграфічнаму стэрэатыпу трансфармаваліся і асобныя традыцыйныя бел. танцы, якія жывуць побач са старадаўнімі.

Асобны жанр танцавальнага бел. фальклору ўтвараюць сольныя імправізацыйныя танцы, у якіх адсутнічаюць вызначаны парадак фігур, абавязковая іх паўтаральнасць, строгая ўзаемасувязь паміж партнёрамі. Кожны ўдзельнік свабодна імправізуе, выказваючы ў разнастайных рухах свой настрой, пачуцці. У бел. танцавальным фальклоры нямала танцаў, якія выконваюцца ў нар. побыце не толькі ў масавым, але і ў сольным варыянце («Лявоніха», «Бычок», «Шавец», «Мікіта», «Таўкачыкі», «Казачок», розныя скакухі і г. д.). Вялікай колькасцю сольных танцаў-імправізацый папоўнілася бел. харэаграфія ў пач 20 ст., калі ў побыт народа ўвайшлі «Сербіянка», «Сямёнаўна», «Страданні», «Матлёт» і інш. гарадскія бытавыя танцы. У індывідуальным танцы характар народа і духоўны свет асобнага выканаўцы раскрываюцца асабліва ярка і поўна. Кожны танцор мае свае прыёмы, манеру, па, «выхадку». Выканаўчаму майстэрству танцораў з народа ўласціва шчодрая самааддача, першасная сіла пачуццяў, непасрэдная захопленасць. Для сольных танцаў характэрна цяпер частае суправаджэнне рухаў кароткімі, пераважна чатырохрадковымі прыпеўкамі, якія могуць выконвацца з любымі танцамі і ствараюцца на хаду, імправізавана. Прысвечаныя найчасцей любоўнай тэматыцы, яны закранаюць розныя бакі жыцця, вызначаюцца надзвычайным аптымізмам, дасціпнасцю. *Ю. М. Чурко.*

**НАРО́ДНЫ ІНСТРУМЕНТА́ЛЬНЫ АНСА́МБЛЬ**, устойлівая група народных музыкантаў, аб'яднаных сумесным выкананнем. Нар. вызначэнні на Беларусі — музыкі, музыка, капэла, кампанія, гурт, скамарохі. Назва «траістая музыка», вядомая ў спецыяльнай літаратуры, у нар. асяроддзі не выяўлена. Ансамблевая ігра, якая суправаджала вяселлі, ігрышчы і інш. нар. святкаванні,— адна з даўніх форм бел. нар. выканальніцтва. Традыцыйныя Н. і. а. невялікага складу (з 2—4 інструментаў). Некаторыя з папулярных у мінулым інструментальных саставаў (*дуда* і *скрыпка*, скрыпка і *вугольнік*, скрыпка і *басэтля*, 3 скрыпкі і інш.) зніклі з ужытку. У наш час ёсць ансамблі з інструментаў адной групы (2 скрыпкі; скрыпка і *балалайка*; скрыпка і *цымбалы*) і розных (скрыпка і *бубен; гармонік* і скрыпка; скрыпка і *кларнет*; цымбалы і гармонік; скрыпка, цымбалы, гармонік і турэцкі *барабан* і інш.). У цэнтр. і зах. рэгіёнах Беларусі пашыраны ансамблі большага складу — «аркестры» (скрыпкі, гармонік, балалайка, кларнет, барабан і *бразготка*; скрыпкі, цымбалы, баян, кларнет, бубен і інш.). Існуюць нар. духавыя аркестры, якія, як і «аркестры», часцей сустракаюцца ў невялікіх гарадах, пасёлках, вялікіх вёсках і абслугоўваюць значную тэрыторыю.

Рэпертуар Н. і. а. ўключае вясельныя маршы, традыцыйныя і сучасныя танцы і песні. У ансамблі дакладна вызначаны функцыі кожнага выканаўцы: напр., у ансамблі з двух скрыпак і бубна першы скрыпач «трымае вярхі», другі — «туруе» (суправаджае), бубніст — «паддае тахціку» (адбівае такт), «выбівае рытм»; у ансамблі са скрыпкі і цымбалаў скрыпач «вядзе матыў», цымбаліст спалучае меладычна-падгалосачную, рытмічную і гарманічную функцыі. У Н. і. а. рэалізуюцца розныя прынцыпы спалучэння ансамблевых галасоў — поліфанічны (падгалосачнага, кантрастнага відаў) і гамафонна-гарманічны з элементамі скрытай паліфаніі. Гэтыя прынцыпы фарміраваліся ў залежнасці ад мясцовых традыцый песенна-харавога шматгалосся, тыпу ансамбля і жанру музыкі, якая выконваецца. У апошні час назіраецца тэндэнцыя да значнай рухомасці ансамблевых саставаў, якая абумоўлена знікненнем многіх традыцыйных інструментаў, актыўным асваеннем нар. музыкантамі новых (баяна, акардэона, саксафона, электрагітары), спалучэннем у адным ансамблі традыцыйных нар. інструментаў з прафесійнымі (напр., гармонік, труба, бубен; увядзенне ў склад нар. духавога аркестра скрыпкі і гармоніка), пашырэннем мяшаных вакальна-інструментальных ансамбляў. *І. Дз. Назіна.*

**НАРО́ДНЫ КАЛЯНДА́Р**, сістэма адзначаных у народнай свядомасці замацаваных ці рухомых дат, якая склалася ў старажытнасці і з'яўлялася важным арыенцірам усяго кола рытуальных паводзін у межах гадавога, сезоннага, тыднёвага і сутачнага цыклаў, а таксама асновай прымеркаванасці да пэўных дат сельскагаспадарчых работ. Адна з форм духоўнай культуры народа. У традыцыйным бел. Н. к. адлюстраваны погляды чалавека на навакольнае асяроддзе, шматлікія культурныя ўплывы, працэсы іх уніфікацыі, дыферэнцыяцыі, узаемаўзбагачэння і інш. Беларускі Н. к., які прадаўжаў стараж.-слав. традыцыі, быў звязаны са зменаю фаз (квадраў) месяца, прычым кожная з іх лічылася спрыяльнай або неспрыяльнай для пэўных гаспадарчых работ (пасадку гародніны пачыналі звычайна ў маладзік, а закладванне яе на зіму прымяркоўвалі да апошняй квадры; снаваць пачыналі ў поўню і інш.). Па месячных квадрах у некаторых мясцінах сачылі за рухомымі святымі (напр., вялікдзень заўсёды святкавалі пасля поўні ветахам — месяц у апошнюю чвэрць). Гэта пацверджанне таго, што тыднёваму падліку часу ў славян, як і ў інш. народаў, папярэднічала сістэма, арыентаваная на месячны каляндар. У бел. Н. к. захаваліся і рэшткі сонечнага календара — старадаўняга падзелу года адпаведна зімоваму (па калядах) і летняму (на Купалу) сонцастаянню. Колькасць тыдняў паміж гэтымі святамі аднолькавая (26), і Купала падзяляў сялянскі каляндарны год на два паўгоддзі (25 снежня — 24 чэрвеня с. ст.).

Разам з хрысціянствам распаўсюджваўся кананічны хрысціянскі тыдзень, адбывалася замена пэўнай часткі нар. каляндарнай тэрміналогіі на канфесіянальную. Адначасова ішло і прыстасаванне, адаптацыя хрысціянскага (пазней праваслаўнага ці каталіцкага) календара да папярэдняга язычніцкага. Нягледзячы на залежнасць Н. к. ад хрысціянскага, як і другасны характар нар. каляндарнай тэрміналогіі, значэнне асобных свят, структура традыцыйнага бел. календара, часам і назвы свят (куцця, грамніцы, вялікдзень, радаўніца, сёмуха, Іван Галавасек і інш.) далёка адышлі ад хрысціянскіх кананізаваных форм. Гэта праяўлялася ў нар. асэнсаванні значнай часткі свят царкоўнага календара, нават такіх буйных, як благавешчанне, сёмуха і інш.

Аснова бел. Н. к.— маркіраваныя і немаркіраваныя дні-святы і будні. Святы падзяляліся на вялікія, ці гадавыя (двунадзесятыя), і малыя, ці прысвяткі, да якіх прымыкала штотыднёвая нядзеля. Такая дыферэнцыяцыя залежала ад адноснай сілы забароны, якую неабходна было выконваць у час свята (на працягу вялікіх свят стараліся нічога не рабіць ні дома, ні ў полі, у некаторых выпадках нават гатаваць ежу). Яе парушэнне, паводле нар. уяўленняў, магло прывесці да бяды з хатняй жывёлай або да стыхійнага няшчасця. Прытрымліваліся і забароны, прымеркаванай да асобных дзён тыдня: нядзелі, посных дзён — пятніцы, серады (забаранялася ткаць і інш.). Асаблівае значэнне і выяўленасць уласцівы пярэдадню свята (у нар. усведамленні святочны дзень пачынаецца з моманту захаду сонца напярэдадні), на які часта пераносілася агульная асэнсаванасць свята. Важным у Н. к. з'яўляўся і наступны за святам дзень, шанаванне якога нібыта прадухіляла град, засуху, навальніцу і інш. У сувязі з тым, што ў народзе фактычна не ўжываліся назвы месяцаў і каляндарныя лічбы, амаль да пач. 20 ст. ў сялянскім побыце захоўваўся характэрны для Н. к. адлік часу

ад найбольш вялікіх і нерухомых гадавых свят, сярод якіх вылучаліся посная (галодная) куцця напярэдадні Вадохрышча і благавешчанне («за два тыдні да каляд», «тры тыдні па вялікадні», «да Міколы за пяць дзён» і інш.). Для вызначэння часовых адрэзкаў выкарыстоўвалі і т. зв. хранонімы, якія звязвалі з гаспадарчым ці хрысціянскім календаром: вясна, жніво, пост, піліпаўка, пятроўка і г. д. Для асобных дзён тыдня, кожны з якіх мае ў Н. к. пэўнае значэнне — адноснае ці ўстойлівае (напр., панядзелак — цяжкі, нядобры дзень), істотнымі аказваліся семантычныя супрацьпастаўленні: мужчынскі — жаночы, посны — скаромны, першы — апошні. Мужчынскія і жаночыя дні падзяляліся па граматычнаму роду. Лічылася, што работы мужчынскага (будаўніцтва, сяўба і г. д.) і жаночага (жніво, хатняя праца) цыклаў трэба пачынаць выключна ў адпаведныя дні. У посныя дні (сераду, пятніцу) трэба было пачынаць вазіць з поля жыта, закладваць на зіму бульбу. Яскрава выяўлялася ў бел. Н. к. і магія першага дня ці пачатку не толькі свят, але і розных прыродных з'яў: першага грому (калі гром на «голы» лес, то на неўраджай), з'яўленне інею, выпаданне снегу, прылёт птушак з выраю, асабліва буслоў, зязюль, ластавак. Уважліва сачылі за тымі днямі, на якія ў бягучым годзе выпадалі нерухомыя святы, але найчасцей за пярэдаднем Вадохрышча (лічылі неспрыяльным для пачатку шэрагу работ) і благавешчаннем.

Існавалі і лакальныя традыцыі — прысвяткі надрэчных, палявых, пушчавых вёсак, асобных прафесій (пастухоў, рыбаловаў, пчаляроў), якія прымяркоўвалі да пэўных дат, звычайна дзён памінання адпаведных хрысціянскіх святых (напр., прысвятак надрэчных вёсак і рыбаловаў прыпадаў на дзень св. Аляксея — 12-ы тыдзень па калядах). Сярод такіх традыцый вызначаюцца т. зв. «госці» — адно (радзей два) каляндарнае свята пэўнай вёскі, на якое мясцовыя жыхары запрашалі сваякоў з суседніх вёсак і рыхтавалі для іх багаты стол. Калі ў вёсцы была царква, то свята супадала з днём яе святога, у другіх выпадках святкаваліся паводле традыцыі (фэст). Гл. табліцу.

*М. П. Антропаў.*

**НАРО́ДНЫ ТА́НЕЦ**, харэаграфічны фальклор, адна са старажытнейшых форм народнай творчасці. У пластычнай форме адлюстроўвае ўражанні ад навакольнага свету, жыццё, побыт і працоўную дзейнасць народа; увасабляе яго нацыянальны характар, спосаб вобразнага мыслення.

На пачатковай стадыі развіцця Н. т. быў злучаны ў адно сінкрэтычнае цэлае з песняй, музыкай, элементамі драматычнай акцёрскай ігры; неад'емнай часткай уваходзіў у розныя абрадавыя дзеянні. Паступова вылучыўся ў самастойны від мастацтва і пачаў раз-

**Асноўныя святы і прысвяткі**

| Дата (с. ст.) | Назва свят і прысвяткаў | Заўвагі |
|---|---|---|
| **Студзень** | | |
| 1 | *Новы год* | |
| 5 | Посная (галодная) *куцця* | |
| 6 | *Вадохрышча* | |
| 18 | Апанас | Апякун жывёлы ад марозаў; палова зімы ў адносінах нарыхтаванага для жывёлы корму. |
| 24 | Аксіння | Аксіння дарогу перамяце, а корм падмяце. |
| **Люты** | | |
| 2 | *Грамніцы* | |
| 5 | Агаф'я | Свяцілі хлеб-соль, «памоцны» карове ад сурокаў і пры пажары. |
| Субота перад мясапуснай нядзеляй | *Дзяды* (тоўстая субота) | Першыя памінальныя Дзяды, |
| Мясапусная нядзеля | *Запускі* | |
| Масляны тыдзень | *Масленіца* | |
| 11 | *Аўлас* | |
| Масляная нядзеля | Запускі | |
| Вялікі пост (7 тыдняў) | | |
| **Сакавік** | | |
| 1 | *Аўдакея* | |
| 4 | Рыгор | Таянне снегу. На Рыгора зіма «ідзе ў мора». |
| 9 | *Саракі* | |
| Серада на 4-м тыдні вялікага посту | Хрэстцы (крастцы), сярэдапосце | Характар надвор'я адпавядаў мокраму ці сухому лету. |
| 17 | *Аляксей* | |
| 25 | *Благавешчанне* | |
| | Вербны тыдзень | |
| Нядзеля на вербным тыдні | *Вербніца* | |
| **Красавік** | | |
| 2 | Палікарп | На Палікарпа пачатак бясхлебіцы. |
| Чацвер на перадвялікодным (белым) тыдні | *Чысты чацвер* | |
| Нядзеля | *Вялікдзень* | |
| 11 | Анціп | Прысвятак знахароў, якія замаўляюць зубы. |
| 15 | Андрэй | Сяўба канапель. |
| 16 | Ірына | Сеюць капусту на расаду. |
| 17 | Засім | Апякун пчалаводаў. |
| Чацвер вялікоднага тыдня | Вялікдзень мёртвых | Ушанаванне ў раёнах Палесся памяці нябожчыкаў на магілках. |
| Аўторак Фамінога (праваднога — паслявялікоднага тыдня) | *Радаўніца* | |
| Серада таго ж тыдня | Градавая серада | Забарона на земляробчыя работы, каб улетку град не біў пасевы. |
| 23 | *Юр'я* | |
| 24 | Аляксей | Сяўба аўса. |
| 25 | Марк | Дождж на Марка, дык зіма як скварка. |
| 30 | Якуб | На Якуба грэе люба. |
| **Май** | | |
| 2 | Барыс і Глеб | Пачатак сяўбы яравога хлеба. |
| 8 | Іван Багаслоў («Доўгі Іван», Міколаў бацька) | Садзілі моркву, агуркі, рэдзьку. |
| 9 | *Мікола* | |
| 15 | *Пахом* | |
| 5-я пятніца пасля вялікадня | Градабойная пятніца | Забарона на працу, каб улетку не было граду. |
| 21 | Алена | Пасеў ільну |
| 22 | Васіліск | Пачынаў спяваць салавей. |
| **Чэрвень** | | |
| Чацвер на 6-м тыдні (40-ы дзень) пасля вялікадня | Ушэсце | Праводзіўся ахоўна-засцерагальны і магічна-аграрны абрад *«Страла»*. |
| Субота на 7-м тыдні | Траецкія (сёмушныя) дзяды | |
| Нядзеля | *Сёмуха* | |
| Чацвер траецкага тыдня | Дзевятнік (сухі чацвер) | Забарона на працу, каб не было засухі. |
| Наступны пасля сёмухі тыдзень | *Русальны тыдзень* | |

| Дата (с. ст.) | Назва свят і прысвяткаў | Заўвагі |
|---|---|---|
| 10-я нядзеля (радзей пятніца) пасля вялікадня | Дзесятуха | У некаторых мясцінах асцерагаліся маланкі. |
| 8 | Тадор | На Тадора раса — канаплі паласа. |
| 12 | Апуфрый | Пачатак ворыва пад грэчку. |
| 13 | Акуліна-грачышніца | Пасеў грэчкі. |
| 23 | *Купалле* | |
| 24 | Іван (Ян) | |
| 29 | *Пятро* | |
| 30 | Сымон і Юда | Пачынаюць араць папар. |
| **Ліпень** | | |
| 1 | Кузьма і Дзям'ян | Пачатак сенакосу. |
| 8 | Казанская матка боская | У Паўд. Беларусі — зажынкі. |
| 12 | Прокл | З гэтага дня пачынаюцца вялікія росы, таму да Прокла спяшаюцца высушыць сена. |
| 19 | Макрына | Калі ў гэты дзень дождж, то астатняе лета будзе мокрае. |
| 20 | *Ілья* | |
| 24 | *Барыс і Глеб* | |
| 25 | Ганна | Кладуць снапы. |
| **Жнівень** | | |
| 1 | Першы *спас;* макавей | Асвячэнне маку, у некаторых мясцінах і гародніны. |
| 6 | Другі (вялікі) спас | |
| 15 | Першая (вялікая) *прачыстая* | Асвячэнне калоссяў новага ўраджаю. |
| 16 | Малы (трэці) спас | Пачатак пасеву азімага жыта; на трэцім спасе трымай рукавіцу ў запасе. |
| 18 | Флор і Лаўр | На конях не працуюць, іх не запрагаюць і не путаюць. У некаторых мясцінах — прысвятак пастухоў. |
| 23 | Лупа | У адных мясцовасцях сеялі азімае жыта, у другіх — пазбягалі сеяць. |
| 25 | Варфаламей (Баўтрамей) | Хто не пачаў сеяць па спаса, пачынаў у гэты дзень. |
| 28 | Майсей | Выратавальнік ад п'янства. |
| 29 | *Іван Галавасек* | |
| **Верасень** | | |
| 1—8 | *Бабіна лета* | |
| 1 | Сымон | Вылет птушак у вырай. |
| 6 | Цуда (цуды) | Забароны на запальванне агню ў ёўнях і малацьбу жыта. |
| 8 | Другая (малая) прачыстая; *багач* | |
| 14 | *Узвіжанне* | |
| 26 | Іван Багаслоў | Сакрэтныя зносіны сваццяў і жаніхоў наконт дзяўчат на выданні; Іван Багаслоў дружкоў разаслаў, а на пакровы дзеўка і гатова. |
| **Кастрычнік** | | |
| 1 | *Пакровы* | |
| 7 | Сяргей | Пачынаецца зіма. |
| 18 | Лука | Прысвятак сялянскіх іканапісцаў. |
| Субота перад змітравым днём | Дзяды. Змітраўка. Памінальная (радзіцельская, змітраўская) субота. Хаўтуры. Паддзедак | Апошнія памінальныя дзяды. |
| 26 | Зміцер | Зміцер — зямлю выцер, па груды пабіў, каб ніхто не хадзіў. |
| 28 | Параскева Пятніца | Забарона на ткацтва і інш. |
| **Лістапад** | | |
| 1 | Кузьма і Дзям'ян | Спрыялі вяселлям. Пачатак малацьбы. Прысвятак кавалёў. |
| 7 | Тадор | На Тадора поўная камора. |
| 14 | Запускі на піліпаўку | Пачатак вячорак і зімовых хатніх работ. |
| 15 | Пачатак *піліпаўкі* | |
| 21 | Уводзіны | Якое надвор'е ў гэты дзень, такая будзе і зіма. |
| 22 | Пракоп | Пракоп па снезе ступае, дарогі капае. |

вівацца, задавальняючы эстэтычныя патрэбы людзей. Самымі стараж. лічацца паляўнічыя і ваенныя танцы, а таксама тыя, у якіх адлюстроўваюцца працэсы працы. Танец кожнага народа мае сваё нацыянальнае аблічча, самабытныя асаблівасці, якія праяўляюцца ва ўсім комплексе яго выяўленчых сродкаў: наборы танцавальных па, характары рухаў і поз, манеры іх выканання, спосабе сувязі з рытмам і метрам музыкі, тэмпе, кампазіцыі, прасторавым малюнку і інш. Арганічная частка Н. т.— пантаміма, міміка.

Вытокі нар. харэаграфічнага мастацтва беларусаў — у нетрах культуры ўсх.-слав. плямён. Гістарычныя ўмовы існавання бел. народа (сацыяльны, нацыянальны і рэлігійны прыгнёт, неабходнасць адстойваць нацыянальную самабытнасць) абумовілі захаванне ў бел. фальклоры рыс старажытнасці. Такія стараж. абрады і гульні, як абход двароў з казой на *каляды*, *«Жаніцьба Цярэшкі»*, пахаванне «стралы» (гл. *«Страла»*), «Ваджэнне куста», святкаванне *купалля*, *вяселля* і інш., бытавалі да 20 ст., некаторыя збераглізя і ў наш час. Значнае месца ў іх займалі харэаграфічныя элементы, цесна злітыя са спевамі, музыкай, драматычным дзеяннем. Вялікую ролю адыгрывалі ў нар. харэаграфіі выяўленчыя моманты і імітацыя працоўных працэсаў, з'яў прыроды, перайманне рухаў птушак, жывёл.

Найбольш старажытны від мастацтва, дзе харэаграфічны бок арганічна спалучаны з харавым спяваннем і адпаведнай драматызацыяй паэтычнага зместу і часткова захавана сувязь з каляндарна-земляробчай (часам і сямейна-бытавой) абраднасцю,— *карагод*. У карагодах нар. харэаграфія паступова выпрацоўвала свае ўстойлівыя прыёмы, пэўныя сродкі выразнасці, якія ператварыліся ў традыцыйныя і фарміравалі аснову харэаграфічнай вобразнасці. Танцы вылучыліся з карагодаў у 14—16 ст. і доўгі час развіваліся паралельна з імі. Гэта пацвярджаецца існаваннем аднайменных карагодаў і генетычна звязаных з імі танцаў: *«Кола»*, *«Падушачка»*, *«Шастак»*, *«Чарот»*, *«Верабей»*, *«Заяц»*, *«Зязюля»*, *«Гусары»*, *«Юрачка»* і інш. Танцы ад карагодаў адрозніваюцца адносінамі да руху, як да асноўнага сродку выразнасці, замацаванасцю і паўторнасцю фігур, інструментальным суправаджэннем. Групу традыцыйных танцаў, акрамя названых, складаюць *«Лявоніха»*, *«Мяцеліца»*, *«Крыжачок»*, *«Мікіта»*, *«Бычок»*, *«Млынок»*, *«Кросны»*, *«Пеўнік»*, *«Жабка»*, *«Каза»*, *«Качан»*, *«Лянок»*, «Шаўцы», *«Таўкачыкі»*, *«Касары»*, *«Гняваш»* і інш. Традыцыйныя танцы надзвычай разнастайныя тэматычна, кампазіцыйна, паводле рытму і малюнку, яны адлюстроўваюць самыя розныя бакі жыцця народа. Пашыраны музычны памер $^2/_4$. Танцы пераважна парна-масавыя,

23. Зак. 566

| Дата (с. ст.) | Назва свят і прысвяткаў | Заўвагі |
|---|---|---|
| 24 | Кацярына | Прыйшла Кацярына, прыйдзе і пярына. |
| 26 | Асенні Юрый | Адмыкае раты ваўкам,і з гэтага дня яны нападаюць на скаціну. |
| 30 | *Андрэй* | |
| **Снежань** | | |
| 1 | Навум | Пачатак навучання грамаце. |
| 4 | *Варвара* | Мосціць. |
| 5 | Сава | Цвікі вострыць. |
| 6 | Зімовы Мікола | Прыбівае. Зімовы Мікола каня заганяе. |
| 9 | Зімовая Ганна | Пачатак першай адлігі. |
| 24 | Вялікая (посная) куцця | Увечар — пачатак каляд. |
| 25 (2 тыдні) | *Каляды* | |
| 27 | Сцяпан | Заканчэнне тэрміну працы па найму. |
| 31 | Багатая (скаромная) куцця | |

але ёсць і сольныя варыянты. Многія захавалі сувязь з карагоднай песняй (што суправаджала іх у старажытнасці), аднак з цягам часу яна набыла характар прыпеўкі. У аснове бел. танцавальнай лексікі — дробныя рухі (пераменны крок, балянсэ, падэбаск, шасэ, падбіўка, прытуп і інш.). Жаночы танец істотна не адрозніваецца ад мужчынскага. Многім танцам уласцівы гульнёвы драматызаваны характар. У 19 ст. пачаўся працэс асіміляцыі традыцыйнага фальклору з танцавальнымі формамі полькі, кадрылі, некаторымі бальнымі танцамі. З аднаго боку гэтыя танцы ў побыце фальклырызаваліся, набывалі лакальныя стылявыя асаблівасці і рысы, з другога — самі ўплывалі на развіццё нар. танц. мастацтва. Кадрылі, і асабліва полькі, арганічна ўвайшлі ў бел. харэаграфію, гэтаму спрыяла іх поўная блізкасць да нацыянальных танцавальных традыцый. Значныя змены адбыліся ў танцавальнай творчасці ў 1920-я г. На Беларусі (як у Расіі і на Украіне) пашырыліся новыя гарадскія бытавыя танцы — фальклор суседніх народаў. Старажытны танцавальны пласт прыкметна аднавіўся, у ім сталі пераважаць танцы, скантруяваныя наводле стандартаў. Аднак і запазычаныя танцы народ імкнуўся падпарадкаваць сваёй мастацкай сістэме, прыўнесці ў іх рысы нацыянальнага харэаграфічнага фальклору.

Са старажытных часоў у нар. творчасці побач з карагодам і традыцыйным танцам (з вызначаным парадкам фігур) развіваўся свабодна імправізацыйны сольна-масавы танец. Кожны ўдзельнік танца свабодна імправізуе, выражае ў адвольнай паслядоўнасці разнастайных рухаў свае настрой і пачуцці. Гэта форма ярка праявілася яшчэ ў мастацтве скамарохаў. Сярод тыповых танцаў імправізацыйнага складу — *«Казачок»*, *«Скакуха»*, *«Растрападка»*, *«Барыня»*, *«Завейніца»*. Імправізацыйны характар надаецца выкананню сольных варыянтаў традыцыйных парна-масавых танцаў («Лявоніха», «Шаўцы», «Таўкачыкі», «Трасуха» і інш.). Поўнай колькасцю імправізацыйных танцаў папоўнілася бел. харэаграфія ў пач 20 ст., калі ў побыт увайшлі «Сербіянка», «Сямёнаўна», «Страданне», «Матлёт» і інш. Характэрна суправаджэнне гарадскіх бытавых танцаў кароткімі, пераважна 4-радковымі прыпеўкамі, якія могуць выконвацца з любым танцам і іншы раз ствараюцца ў час яго выканання. У сольна-імправізацыйных танцах мацней, чым у інш. жанрах Н. т., развіта сінкапіраванне (несупадзенне моцных доляў у танцы і музыцы, ссоўванне і рухомасць харэаграфічных акцэнтаў). Харэаграфічная сінкопа, як і лексіка, мае мноства варыянтаў, у кожнага танцора свае прыёмы, свая манера. Выканальніцкае майстэрства танцораў з народа вызначаецца шчодрай самаад-дачай, непасрэдным і гарачым захапленнем.

Н. т. паслужылі асновай для іншых відаў танца — класічнага, народна-сцэнічнага, бальнага, характарнага, якія ўтвараліся шляхам абагульнення, мастацкай трансфармацыі, удасканалення іх асобных рысаў прафесіянальнымі харэографамі. Н. т. стаў асновай творчых пошукаў і дасягненняў Дзярж. ансамбля танца БССР, танцавальнай групы Дзярж. нар. хору БССР, фальклорна-харэаграфічнага ансамбля «Харошкі», многіх самадзейных танц. калектываў. Традыцыі харэаграфічнага фальклору, яго лексіка творча перапрацаваны ў нацыянальных балетных спектаклях. *Ю. М. Чурко.*

**НАРО́ДНЫ ТЭА́ТР**, адзін з відаў народнай мастацкай творчасці. Бытуе ў формах, створаных самім народам, і арганічна звязаны з усім комплексам яго культуры. Вядомы многім народам. Аснову рэпертуару Н. т. складаюць нар. драматычныя творы рознага жанру. Развіццё бел. Н. т. прайшло некалькі этапаў. Яго вытокі ўзыходзяць да стараж. паляўнічых і земляробчых абрадавых гульняў, культавых рытуалаў, дзе зараджаліся элементы ігравога дзеяння і тэатральнага пераўвасаблення. Абрады, што ўзніклі ў пару язычніцтва, паступова страцілі сваю магічную аснову. Гэта ў значнай ступені садзейнічала развіццю элементаў тэатра. Працэс абміршчэння абрадаў і паявілчэння іх драматычна-ігравога пачатку прывёў да адносна самастойнага развіцця драматычна-тэатральных момантаў, якія набылі выразную эстэтычную функцыю. Элементы тэатралізаванага дзеяння ёсць у многіх каляндарных (напр., *купалле*) і сямейна-бытавых абрадах, у *карагодах*, карагодных танцах і гульнях. Найбольш ярка яны выявіліся ў вясельным абрадзе (гл. *Вяселле*) і *калядах*.

Вяселле мела аналагічную драме кампазіцыйна-структурную будову: завязку, кульмінацыю і развязку, падзел на асобныя сцэны і эпізоды, поўныя ролі, выпрацаваныя і замацаваныя абрадавай традыцыяй. Каляды ператвараліся ў своеасаблівы карнавал з разнастайнымі тэатралізаванымі гульнямі і паказамі *батлейкі, народнай драмы*. Выканаўцы пераапраналіся, карысталіся маскамі, своеасаблівым грымам, рэквізітам. У карагодах, якія арганічна спалучалі песню, танец і драматызаванае дзеянне, тэатралізацыя ўзнікла на аснове песеннага сюжэта. Калектыўная дзейсна-ігравая форма перадачы зместу вядома ўжо ў карагодах тыпу «А мы проса сеялі...», дзе з дапамогай адпаведных рухаў і жэстаў удзельнікаў перадаваўся характар поўнага земляробчага працэсу. Пастуnова з карагода вылучаліся выканаўцы асобных роляў, паміж імі і карагодным хорам вёўся песенны дыялог. Само карагоднае кола, унутры якога выконваліся розныя сцэнкі, па сутнасці было нар. тэатралізацыяй. Эвалюцыя абрадавай сістэмы стварыла перадумовы гістарычна ранняга вылучэння з яе нар. ігрышчаў, якія былі сінкрэтычнай мастацкай з'явай і нават у пач. 20 ст. мелі прыкметныя рысы сінтэзу песеннага, харэаграфічнага і тэатральнага нар. мастацтва. Цэнтральны момант ігрышчаў — шматлікія гульні, сярод якіх асабліва папулярнымі былі *«Жаніцьба Цярэшкі»* і *«Яшчур»*. У нар. святах і ігрышчах, якія страцілі непасрэдную сувязь з абрадамі, бярэ свой пачатак пазаабрадавая тэатральная творчасць працоўных мас, што вызначыла новы этап развіцця Н. т. Своеасаблівым пераходным звяном, дзе акумуляваліся папярэдні мастацкі вопыт і традыцыі драматычна-тэатральнай творчасці і адначасова закладваліся асновы ўзнікнення ўласна развітай формы нар. драмы, з'явіліся шматлікія бел. пазаабрадавыя гульні. Большасць такіх гульняў («Лось», «Вецер», «Кавалі», «Злыдні», «Чорт, «Гусі і воўк», «Старыца» і інш.) мела дастаткова развітую сюжэтную аснову, а ў іх ігравым увасабленні нар. выканаўцы выкарыстоўвалі многія прыёмы і атрыбуты тэатральнага прадстаўлення. Значную ролю ў развіцці разнастайных форм Н. т. адыгралі аселыя скамарохі — няямен-

ныя ўдзельнікі нар. свят і ігрышчаў. Іх мастацтва садзейнічала далейшай тэатралізацыі абрадаў і гульняў, прыкметна ўплывала на характар дзейнасці нар. музыкаў, казачнікаў і інш. выканаўцаў. У станаўленне нар. форм тэатральных прадстаўленняў значны ўклад зрабілі вандроўныя прафесійныя скамарохі, сярод якіх асаблівай папулярнасцю на Беларусі карысталіся павадыры мядзведзяў, музыкі, выканаўцы драматычных сцэнак.

Н. т. развіваўся як тэатр жывога акцёра і тэатр лялек (батлейка). Некаторыя сцэны з рэпертуару батлейкі ў канцы 19 — пач. 20 ст. выконвалі жывыя акцёры, такія паказы называлі жывой батлейкай. Шырока бытавала на Беларусі і нар. драма. Ставілі «Цара Ірада», але найчасцей рамеснікі, сяляне і рабочыя-гутнікі звярталіся да драмы «Цар Максімілян». Н. т. выяўляў сацыяльныя інтарэсы і погляды нар. мас. Для яго характэрна пераемнасць і ўстойлівасць мастацкіх традыцый, якія складваліся ў працэсе гіст. развіцця нар. эстэтычных прынцыпаў, творчых навыкаў і прыёмаў выканання і перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Паказы Н. т. вызначаліся адкрытай умоўнасцю ўсіх мастацка-выяўленчых кампанентаў, непасрэднасцю кантакту з гледачамі, якія маглі ўмешвацца ў дзеянне, выконваць разам з асноўнымі ўдзельнікамі асобныя ролі. Народная тэатральная творчасць — гістарычны папярэднік нац. прафесійнага тэатра. Традыцыі Н. т. ў пач. 20 ст. выкарыстоўвалі аматарскія гурткі і першыя прафесійныя тэатры (І. Буйніцкага, У. Галубка).

Паказы трупы Буйніцкага захавалі сувязь з нар. ігрышчамі (разам з пастаноўкамі драматычных твораў уключалі выкананне песень і танцаў).

*М. А. Каладзінскі.*

**НАРО́ДНЫ ЭТЫКЕ́Т,** сукупнасць правіл паводзін і абыходжання, прынятых у асяроддзі працоўных; знешняе праяўленне культуры. Рэгуляваў узаемаадносіны людзей у працоўнай, грамадскай, бытавой і сямейнай сферах жыццядзейнасці, у кантактных сітуацыях са знаёмымі і незнаёмымі людзьмі. Правілы Н. э. перадаваліся з пакалення ў пакаленне, праяўляліся ў розных звычаях, абрадах, табу, адлюстроўваліся ў казках, прымаўках, прыказках, частушках і інш. фальклорных жанрах. У паводзінах працоўных здаўна закладзены гуманістычны прынцып павагі да чалавека і яго годнасці, маральныя патрабаванні: добразычлівасць, ветлівасць, сціпласць і дакладнасць, павага да бацькоў і старэйшых, гасціннасць і інш. У сялянскай абшчыне, прамысловых арцелях існавалі элементы калектывісцкіх адносін (узаемадапамога і ўзаемаадказнасць), вытокі якіх у абшчынна-родавым ладзе. Праявамі такіх адносін былі *талака*, *бонда* і інш. Н. э. характарызуецца этнічнымі адметнасцямі, вызначае асаблівасці жаночага і мужчынскага адзення, галаўных убораў, упрыгожання. У розных народаў неаднолькавыя формы прывітання, звароту, звычаі, традыцыі, абрады, забароны, сэнс жэстаў, позы сядзення, парадак прыёму ежы і інш. На Беларусі спрадвеку абавязковымі атрыбутамі з'яўляліся вітальныя словы — «добры ранак», «добры дзень», «дабрыдзень», «добры вечар», развітальныя — «бывайце», «да пабачэння», «да сустрэчы», «дабранач», словы ўдзячнасці — «дзякуй», просьбы — «калі ласка», «будзьце ласкавы» і інш. У вёсцы было прынята вітацца і з незнаёмымі людзьмі. Вітанні з тымі, каго даўно не бачылі, і развітанні на доўгі час суправаджаліся пацалункам рукі і пацалункамі. Пры ўваходзе ў жылое памяшканне разам з прывітаннем мужчыны абавязкова здымалі галаўны ўбор. На Беларусі бацькоў, старэйшых (знаёмых і незнаёмых) называлі на Вы. Да бацькі звярталіся са словамі «татка», «татачка», да маці — «матуля», «мамка», «мамачка». Спакон вякоў прынята было аказваць дапамогу спадарожніку парадай, начлегам, харчаваннем. У простых людзей у пашане былі працавітасць, добрасумленныя адносіны да зямлі, да працы і яе вынікаў, асабліва да хлеба. Сурова асуджаліся гультайства, лянота, грэбаванне працай, прыроднымі ўгоддзямі, у сям'і і арцельных калектывах такія паводзіны выклікалі і спагнанні. Правілы Н. э. рэгулявалі адносіны паміж юнакамі і дзяўчатамі, жанчынамі і мужчынамі. Яны ўстанаўлівалі формы адносін паміж моладдзю на вячорках, у час гульняў, абрадаў, пры правадзінах дзяўчыны хлопцам. У сямейнай сферы Н. э. вызначаў абавязкі мужа, жонкі і інш. членаў сям'і. У сельскай мясцовасці мужчыны абавязаны былі араць зямлю, касіць, перавозіць сена, салому, снапы, даглядаць скаціну зімой, выконваць будаўнічыя і рамонтныя работы, нарыхтоўваць дровы, вырабляць гаспадарчыя прылады, начынне і інш. Жанчынам ставілася ў абавязак гатаваць ежу, засяваць і палоць агарод, капаць бульбу, рваць лён і каноплі, апрацоўваць трасту, прасці, ткаць, шыць, мыць і рамантаваць адзенне, падтрымліваць чысціню ў доме. Паводле Н. э. мужчыне не да твару было даставаць ежу з печы, бялізну з куфра або кубла. Гэтыя абавязкі і правілы маглі парушацца ў экстрэмальных умовах. Дзеці безадказна павінны былі слухацца бацькоў, асабліва галаву сям'і, гаспадара. Н. э. рэгуляваў распарадак працоўнага дня, вызначаў час, калі ўставаць ранічай, снедаць, абедаць, вячэраць. Строга прытрымліваліся застольнага этыкету. Ніхто не пачынаў есці раней галавы сям'і. За ядой не прынята было размаўляць. За скінуты на падлогу хлеб або крошкі прасілі прабачэння. Чарговую страву пачыналі есці па камандзе гаспадыні. З'ядалі ўсё, што было ў місцы. За свавольства за сталом дзеці караліся. Шэраг правіл адносіўся да абрадавага застолля: вясельнага, хрэсьбіннага, памінальнага і інш. У паводзінах працоўных, іх узаемаадносінах меліся і негатыўныя з'явы, абумоўленыя іх прыгнечаным становішчам, беднасцю, непісьменнасцю, нізкім узроўнем адукацыі і культуры, пануючымі ў класавым грамадстве прыватнай формай уласнасці і антаганістычнымі вытворчымі адносінамі, культам багацця, імкненнем правячых класаў раз'ядноўваць працоўных, навязаць ім шавіністычныя і нацыяналістычныя погляды, выкарыстаннем для рэалізацыі сваіх мэт царквы і рэлігіі. Такімі негатыўнымі з'явамі былі праявы індывідуалізму, пагарджальных адносін да прадстаўнікоў інш. этнічных супольнасцей, дэспатычнай улады бацькі над дзецьмі, брыдкаслоўе, прытрымліванне рэлігійных абрадаў, павер'яў, забабонаў, парушэнне асабістай гігіены і інш. Адмоўны ўплыў на Н. э., асабліва ў горадзе, аказвала мяшчанскае саслоўе (рамеснікі, купецтва, дробныя гандляры, служачыя прыватных кампаній і інш.). Мяшчане ў сваім імкненні выбіцца ў людзі, стаць багатымі або паходзіць на іх пры абмежаванасці светапогляду і ўбогасці духоўнага жыцця стварылі свой мяшчанскі этыкет, які характарызаваўся празмернай ветлівасцю, манернасцю, нярэдка ў карыкатурных формах. Перадавыя рабочыя, прадстаўнікі разначыннай інтэлігенцыі пазбягалі элементаў мяшчанскіх паводзін. Звычайнымі станавіліся вітальныя словы «таварыш», «сябра», «брат». Фарміраваліся паважальныя, раўнапраўныя адносіны да жанчын, а ўзаемаадносіны паміж бацькамі і дзецьмі ўсё больш абапіраліся на аўтарытэт родных, асуджаліся п'янкі, брыдкаслоўе; больш прад'яўлялася патрабаванняў да асабістай і хатняй гігіены, да эстэтыкі адзення і жылля. Лепшыя рысы, прынцыпы і нормы Н. э. пакладзены ў аснову савецкага этыкету, які супадае з агульнымі патрабаваннямі ветлівасці і прыстойных паводзін. *І. М. Браім.*

**НАРО́ДНЫЯ ГУ́ЛЬНІ**, адна са старажытных форм народнай творчасці. Узніклі як вынік язычніцкіх уяўленняў чалавека пра навакольны свет і звязаны з яго імкненнем пры дапамозе магічных гульнёвых дзеянняў, імітацыі паводзін жывёл, працоўных працэсаў і інш. уступіць у сувязь, паўплываць на незразумелыя прыродныя сілы. З развіццём эстэтычнай функцыі, якая паступова замяніла утылітарна-прыктычную, Н. г. сталі забавай, сродкам эстэтычнага, а спартыўныя гульні апошняга часу і фізічнага выхавання людзей. Найбольш стараж. гульні звязаны з паляваннем; яны ўзыходзяць да рытуальных скокаў, у якіх чалавек, імітуючы паводзіны жывёл і птушак, імкнуўся з магічнымі мэтамі ўвасобіцца ў інш. істоту. Гульні такога характару: «Воўк», «Каршун», *«Мядзведзь»*, «Пастух і воўк», «Гусі», «Каза», «Галубы», *«Жураўель»*, «Горліца» і інш. Многія Н. г. заснаваны на імітацыі

працоўных працэсаў: «Проса», «Лён», *«Канапелькі»*, «Мак», *«Рэдзька»*, *«Млынок»* і інш., большасць з іх трансфармавалася ў гульнёвыя карагоды. Вытокі вялікай колькасці традыцыйных гульняў ляжаць у абрадавай паэзіі як сюжэтаарганізуючай часткі іх сінкрэтычнага мастацкага адзінства. Асабліва многа іх звязана з нар. календаром. Своеасаблівым комплексам можна лічыць веснавыя каляндарныя гульні *гуканне вясны*, валачобніцтва (гл. *Валачобнікі*), *Юр'я*, ваджэнне і «пахаванне *«стралы»*, провады русалкі (гл. *Русальны тыдзень*), траецкія гульні, ваджэнне куста (гл. *Куст*). Шмат гульнёвых забаў адбывалася на купалле — скокі праз вогнішча, качанне па жыце, пошукі *папараць-кветкі;* нават выбіралі іх арганізатара — Купаліша. Гульнёвы характар у час жніва набылі цырымоніі першага і апошняга снапа, *«завіванне барады»*. Зімой у доўгія вечары пераапраналіся ў «цыганоў», вадзілі *«Казу»*, «Каня», *«Кабылу»*, *«Жураўля»*, жанілі «Цярэшку» (гл. *«Жаніцьба Цярэшкі»*), гулялі ў *«Яшчура»*. Багаццем гульнёвых рытуалаў адрозніваецца *вяселле*, магчыма таму ў народзе часта кажуць «гуляюць вяселле». Сватаўство, абарона варот, выкуп месца для маладой, падзел каравая і інш. дзеянні, страціўшы свой старажытны сэнс форм шлюбу, сталі *вясельнымі гульнямі*. У наш час большасць прымеркаваных да абрадаў карагодных гульняў сталі самастойнай мастацкай з'явай (гл. ў арт. *Карагод*). Найбольш распаўсюджаныя — «Халімон», «Гняваш», «Драмуха», «Змейка», «Лука», «Лунька», «Каралевіч», «Вербаванец» і інш. Гульні далі жыццё многім беларускім танцам, напр., *«Бычок»*, *«Качан»*, «Млынок», «Паненка», *«Верабей»*, *«Шаўцы»*, *«Падушачка»*, «Журавель», *«Зязюля»*, «Пыха», «Чарот», *«Заяц»*, «Жучок» і інш., і да нашага часу з'яўляюцца часткай некаторых з іх. На некаторых гульнях адбіўся ўплыў гіст. падзей і сацыяльных адносін: «Прыгон», «У аканома», «У стральца», «У папа», «Катаржнік». Многія традыцыйныя гульні захаваліся ў сучаснай культуры, асабліва ў разнастайных формах нар. тэатра, дзе яны сінкрэтычна спалучаюцца з іншымі мастацкімі сродкамі драмы: мастацтвам слова, пераапрананнем, жэстам, мімікай. Сярод сучасных пазаабрадавых гульняў найбольш папулярны на Беларусі «Ананас», «Жаніцьба Бохара», «У суседа», «Злодзей», «Ксціны», «Рыбаловы», «Смерць», «Злыдні», «Мар'янка», «Авечачка», «Стары і крывы Цуцэла» і інш., якія маюць выразна бытавую аснову. Многія гульні дарослых перайшлі ў наш час у дзіцячую аўдыторыю. Яны сталі дзейсным сродкам нар. педагогікі; развіваюць здольнасці да творчай імправізацыі, узаемавыручку, калектывізм і інш. лепшыя чалавечыя якасці. Асабліва папулярны сярод дзяцей гульні «У гусі», «Рожа», «У жорава», «Вецер», «Лось», «Цароўна і баяры», «Пячэнне хлеба», «Грушка», «Мост» і інш. У наш час прадуктыўна развіваюцца спартыўныя гульні, якія выпрацоўваюць звычку да псіхічных і фізічных намаганняў, напр., «Азярод», *«Апука»*, *«Бабкі»*, *«Була»*, *«Гуські»*, *«Калаўрот»*, *«На лодцы»*, *«Свіння»*, «Сею, сею мак».











**Народныя гульні.** Медалі. Мастак А. З і м е н к а.

**НАРО́ДНЫЯ МАСТА́ЦКІЯ ПРО́МЫСЛЫ**, адна з форм народнай творчасці, звязаная з вырабам прадметаў *народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва* пераважна на продаж. Вядуць пачатак ад хатніх промыслаў, якія ператварыліся ў дробную таварную вытворчасць (гл. *Рамёствы і промыслы).* Існавалі звычайна як невялікія саматужныя майстэрні з выкарыстаннем ручной працы, у выглядзе дамашняй вытворчасці (працавала адна сям'я), радзей — як арцелі майстроў, што пераходзілі з вёскі ў вёску, задавальняючы патрэбы наваколля ў вырабах утылітарна-мастацкага характару. У формах, расфарбоўцы, арнаментацыі вырабаў Н. м. п. ярка выяўляюцца эстэтычныя густы народа, яго шматвяковыя культурныя традыцыі. Залежнасць ад рынку вымушала нар. майстроў прытрымлівацца мясцовых традыцый, апэратыўна адгукацца на запатрабаванні і густы спажыўцоў; чужое, безгустоўнае не прыжывалася. Асноўнымі відамі Н. м. п. на Беларусі здаўна былі *ганчарства* (бабінавіцкая, гараднянская, гарадоцкая, дубровенская, мірская, івянецкая, поразаўская, пружанская, ракаўская кераміка; гл. адпаведныя арт.), некаторыя віды пляцення, *такарнае рамяство, набіванка, пернікарства*, выраб *мэблі*, часткова — *ткацтва, вышыўка*. Асаблівага развіцця Н. м. п. дасягнулі ў 2-й пал. 19—1-й пал. 20 ст. У канцы 19 ст., з развіццём капіталізму і насычэннем рынку таннымі прамысловымі вырабамі, некаторыя промыслы (напр., набіванка, пер-



Народныя мастацкія промыслы. Ткачыха Г. Паляшчук. Вёска Чырвоная Дуброва Капыльскага раёна.



Народныя мастацкія промыслы. Ганчар І. Генбіцкі. Вёска Гарадная Столінскага раёна.



Народныя мастацкія промыслы. Саломапляцельшчыкі Г. і Я. Саламянкі. Барапавічы.

нікарства) заняпалі, хаця асноўная частка сялянства з-за нізкай пакупной здольнасці па-ранейшаму карысталася прадукцыяй Н. м. п. У сувязі са зменамі ў канструкцыі, паляпшэннем знешняга і ўнутранага выгляду нар. жылля набылі пашырэнне промыслы, звязаныя з дэкаратыўным аздабленнем яго інтэр'ера: *саломапляценне, размалёўка* па дрэве, шкле, палатне. Творы Н. м. п. пачынаюць збіраць музеі, іх дэманструюць на выстаўках: саматужніцкай прамысловасці ў Магілёве (1893), саматужніцка-прамысловай у Вільні і Усерасійскай саматужніцкай у Пецярбургу (1913) і інш. З мэтай падтрымкі традыцыйных Н. м. п. у асяродках іх развіцця земствы арганізоўвалі школы і майстэрні: ткацкія — у Лепелі і Савасцянавічах (Магілёўшчына), Кашыраўскую дрэваапрацоўчую (Гомельшчына), лозапляцення — у Магілёве і Гомелі. Арганізавана «Таварыства дапамогі хатняму рамяству», якое павінна было дапамагаць нар. майстрам у паляпшэнні якасці вырабаў, узбагачэнні дэкору і форм, арганізацыі збыту прадукцыі. Аднак гэтыя меры не прынеслі належных вынікаў.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі прыняты шэраг пастаноў аб мерах садзеяння саматужніцкай прамысловасці (1919, 1921). Адраджэнне традыцыйных Н. м. п. пачалося з аб'яднання майстроў у арцелі (керамічныя майстэрні ў Віцебску, Магілёве, ткацка-вышывальныя ў Слуцку, Віцебску, Магілёве, Бабруйску, Мсціслаўе, Талачыне, дрэваапрацоўчыя ў Гомелі, Віцебску, Жлобіне, Пінску). У 1938 створаны Белмастпрамсаюз, які аб'яднаў асноўныя Н. м. п. Беларусі ў адзіную сістэму (у 1940 іх было 20). Пасля Вял. Айчыннай вайны ў сувязі з недахопам прамысловых дэкаратыўна-мастацкіх вырабаў аднавілі сваю работу традыцыйныя Н. м. п., гал. ч. ганчарства, пляценне з саломы, лазы, лучыны, аплікацыя саломай па дрэве і палатне, размалёўка па дрэве, шкле і палатне (гл. *Агоўскія куфры, Маляваныя дываны*). Многія цэнтры традыцыйных Н. м. п. наслужылі асновай для стварэння новых вытворчых аб'яднанняў і фабрык мастацкіх вырабаў у Бабруйску, Віцебску, Гомелі, Мінску, Полацку, Слоніме, Гродне, Магілёве, Пінску, Слуцку, Жлобіне, Брэсце, а таксама 50 цэхаў і базавых пунктаў па рабоце з майстрамі-надомнікамі (у Неглюбцы, Моталі і інш.). З 1979 працуе вытворчае

аб'яднанне па выпуску мастацкіх вырабаў «Беларуская мастацкая кераміка». Пасля прыняцця Закона аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці (1987) адраджаюцца традыцыйныя і з'яўляюцца новыя Н. м. п. *Я. М. Сахута.*

**НАРО́ДНЫЯ МУЗЫ́ЧНЫЯ ІНСТРУМЕ́НТЫ**, прылады, з дапамогай якіх здабываюць акрэсленыя (або недакладна акрэсленыя) па вышыні і рытмічна арганізаваныя (або неарганізаваныя) гукі, паслядоўнасць гукаў, а таксама шумы. Н. м. і. беларусаў вызначаюцца разнастайнасцю тыпаў і іх лакальных разнавіднасцей. Група ідыяфонаў (самагучальныя) уключае *талеркі, лыжкі, вугольнік, трашчотку, калотку, брусочкі, звон, бразготку, шархуны, капшук, кляшчоткі, гармонік* і яго разнавіднасці — баян і акардэон (у мінулым былі яшчэ *варган* і *біла*). Група мембранафонаў (мембранавыя) складаецца з *бубна, барабана* і *грэбеня* (мірлітон). Да групы аэрафонаў (духавыя) належаць свабодныя аэрафоны — лісты дрэў і травы, карынка, берасцянка; флейтавыя — *свісцёлкі, акарына, дудка, парныя дудкі* (раней, магчыма, і шматствольныя); язычковыя — *пішчык, жалейка, кларнет*, да нядаўняга часу і *дуда*; амбушурныя — *рог* і *труба*. Сярод хардафонаў (струнныя) смыковыя — *скрыпка, басэтля*, раней і *ліра* колавая, *смык;* шчыпковыя — *балалайка, мандаліна*, у мінулым і *цытра*; ударныя — *цымбалы.* Паводле спосабу вырабу Н. м. і. падзяляюцца на спецыяльна выраблены і на прыстасаваныя пад Н. м. і. прадметы навакольнай прыроды і побыту. Вырабляюцца яны музыкантамі-выканаўцамі (часцей гэта інструменты для індывідуальнага музіцыравання) і музычнымі майстрамі-прафесіяналамі. У наш час у нар. музычным побыце ўсё больш выкарыстоўваюцца інструменты фабрычнай вытворчасці (цымбалы, гармонік, баян, труба, кларнет). Спрадвеку Н. м. і. звязаны з традыцыйнымі каляндарна-земляробчымі і сямейнымі абрадамі, пастухоўскім, паляўнічым і ваенным побытам, разнастайнымі грамадскімі святамі, ігрышчамі. У нар. практыцы Н. м. і. выкарыстоўваюцца для сольнай і ансамблевай ігры (гл. *Народны інструментальны ансамбль*) або для суправаджэння спеваў. Амаль усе прафесійныя музычныя інструменты з'явіліся ў выніку ўдасканалення або відазмянення Н. м. і. *І. Дз. Назіна.*

**НАРО́ДНЫЯ СТРО́І**, традыцыйныя комплексы беларускага народнага *адзення*, характэрныя для пэўнай мясцовасці. Адрозніваюцца асаблівасцямі крою, кампазіцыйна-пластычным вырашэннем, фактурай і каларытам тканіны, характарам аздаблення (тэхнікай выканання арнаменту, яго матывамі), а таксама спосабам нашэння асобных частак касцюма (здымных упрыгожанняў, галаўных убораў, абутку і г. д.). Н. с. развіваліся ў цеснай сувязі з характарам эстэтычных ідэалаў, утылітарных і мастацкіх запатрабаванняў насельніцтва пэўных рэгіёнаў. Іх фарміраванне залежала ад узроўню сацыяльна-эканам. развіцця пэўнай мясцовасці, прыродна-кліматычных умоў, роду традыцыйных заняткаў, гаспадарчай дзейнасці, рэлігійнай прыналежнасці, узаемасувязей з культурай суседніх народаў і г. д. Найбольш выразна выяўляюцца ў жаночым абрадавым і святочным касцюме 19—1-й пал. 20 ст. і ўвасабляюць стылявыя прынцыпы нар. творчасці ўсіх гісторыка-этнагр. рэгіёнаў Беларусі. *Заходняе Палессе* — адзін з багацейшых на архаічныя мастацкія з'явы рэгіён. Да нашых дзён тут захаваліся старадаўнія віды нар. адзення, галаўных убораў, мастацкіх тканін, якія не сустракаюцца ў інш. месцах рэспублікі, напр., жаночае паясное адзенне бурка *(маларыцкі строй)* і складаныя геаметрычныя кампазіцыі чырвона-чорнага арнаменту *(кобрынскі строй)*. Яшчэ ў 1930—50-я г. старыя жанчыны Маларытчыны ўбіраліся ў хусты (варыянт наміткі), аздобленыя на адным канцы адной ці трыма пальметамі, а свацці ў час вяселля адзявалі спецыяльны галаўны ўбор у выглядзе кароны з двума пукамі страката расфарбаванага пер'я — «рожкі». Характэрныя рысы нар. адзення гэтага рэгіёна яскрава праяўляюцца таксама ў мотальскім, дамачаўскім, пінска-івацэвіцкім



Нарты.

строях (гл. адпаведныя артыкулы). Народнае адзенне *Усходняга Палесся* вылучаецца багаццем сродкаў і прыёмаў мастацкага аздаблення святочнага касцюма. У арнаментыцы значнае месца займаў раслінны паліхромны арнамент, сярод прыёмаў аздаблення — аплікацыя (нашыўкі тасьмы-ўюнка, металічных гузікаў). У жаночым адзенні (кашуля з каўнярам «брыжы» і гарсэт) захаваліся рысы зах.-еўрапейскага сярэдневяковага касцюма *(калінкавіцкі строй)*. Арыгінальную самавітасць касцюму Тураўшчыны *(давыд-гарадоцка-тураўскі строй)* надавалі агромністыя галаўныя ўборы (галовачка, падушачка). Вылучаюцца таксама *брагінскі строй* і *турава-мазырскі строй.* У *Падняпроўі* ў пэўнай ступені прадстаўлены ўсе вядомыя на Беларусі комплексы адзення. У жаночым убранні шырока бытавала панёва — стараж. несшыўное паясное адзенне *(неглюбскі строй)*, прышыўны да спадніцы гарсэт, накшталт сарафана. Сярод прыёмаў аздаблення вядома закладное ткацтва, карункапляценне, вышыўка гафтам, разнастайныя спосабы маршчэння — збірання тканіны ў гафрыраваныя, дробненькія складкі-зборкі *(буда-кашалёўскі строй)*. У матывах арнаменту кашуль сустракаюцца малюнкі дрэва жыцця, пальметы, прамяністыя ромбы, заключаныя ў квадраты і закампанаваныя ў шахматным парадку *(краснапольскі строй*, а таксама *дубровенскі строй, магілёўскі строй)*. У гэтым рэгіёне найбольш актыўна праходзіў працэс узаемаўзбагачэння і ўзаемапранікнення бел., рус. і ўкр. культур, што садзейнічала ўтварэнню мяшаных тыпаў касцюмаў. На *Цэнтральнай Беларусі* найбольш яскрава праяўляюцца ўласцівыя бел. нар. касцюму стрыманасць і паэтычнасць вобраза. Яркім насычаным каларытам спадніц, запрасаваных у дробныя складкі, віртуознай распрацоўкай строгага арнаменту, арганічнага крою і структуры перапляцення тканін, пластыкай жаночых галаўных убораў, аздобленых букетамі кветак, вызначаюцца капыльска-клецкі, ляхавіцкі, пухавіцкі строі (гл. адпаведныя артыкулы, а таксама *Слуцкі строй* і *Вілейскі строй*). Адзенне *Панямоння* рана зазнала ўплыў гарадскога касцюма. У ім пераважалі зялёныя і васільково-фіялетавыя фарбы. У крoі і аздабленні верхняга адзення з сукна нар. майстры дасягнулі віртуознасці і дасканаласці мастацкага афармлення. Прыгажосцю формы вылучаюцца галаўныя ўборы — мужчынскія капелюшы, выплеценыя з саломы і кораню, жаночыя каптуры, чапцы, аздобленыя вышыўкай бісерам, шклянымі пацеркамі, нашыўкамі тасёмак, карункаў (гл. *Ваўкавыска-камянецкі строй, Навагрудскі строй, Мастоўскі строй*). На *Паазер'і*, параўнальна з інш. рэгіёнамі Беларусі, найменш захаваліся традыцыйныя старадаўнія віды і формы адзення. Ужо ў 1-й пал. 19 ст. з-за сацыяльна-эканам. і геагр. фактараў вялікае пашырэнне атрымалі фабрычныя тканіны, ручная набойка, гарадскія касцюмы. Мастацтва набойкі паўплывала на каларыстычна-арнаментальны лад касцюмаў, у святочным адзенні пераважалі блакітныя фарбы і дробна-клятчастыя ўзоры *(лепельскі строй)*. Пашыраным быў комплекс з прышыўным ліфам, які ў асобных раёнах пераходзіў у сарафан. Паступова на змену традыцыйнаму нар. адзенню прыйшоў больш прыдатны для сучаснага жыцця агульнаеўрапейскі касцюм. У наш час матывы нар. касцюма выкарыстоўваюцца пры распрацоўцы новых сучасных мадэлей адзення, на тэатральных сцэнах. *М. Ф. Раманюк.*

**НА́РТЫ**, прыстасаванні ў форме шырокіх лыж, пляцёнак, якія прывязваліся да нагі для пераходу праз балота, а таксама для хадзьбы па снезе.

**НАСА́ТКА**, даўняя адзінка вымярэння вадкасці; драўляны посуд з носам для мёду, мядовага піва, медавухі і мядовага

квасу. У сучаснай бел. мове Н.— бочачка з двума днамі, рыльцам і дужкай для пераноскі.

**НАСЕЛЬНІЦТВА.** Паводле перапісу на 17.1.1979 у БССР жыло 9559 тыс. чал., што складала 3,6 % насельніцтва СССР. Па колькасці Н. рэспубліка займае 5-е месца сярод саюзных рэспублік (пасля РСФСР, УССР, Каз. ССР, Узб. ССР).

**Дэмаграфічнае развіццё.** Да апошняй чвэрці 19 ст. дэмаграфічная сітуацыя на Беларусі характарызавалася высокай нараджальнасцю (даходзіла да 50 ‰) і высокай смяротнасцю (больш за 35 ‰). Зніжалі прырост Н. хваробы, эпідэміі, войны. Вельмі высокая была дзіцячая смяротнасць, амаль кожнае чацвёртае дзіця памірала на першым годзе жыцця. Прыгоннае права стрымлівала міграцыю насельніцтва. З развіццём капіталізму пачаў зніжацца ўзровень нараджальнасці і смяротнасці, але да канца 19 ст. гэта зніжэнне было нязначным. У сельскай мясцовасці нараджальнасць стымулявалася існаваннем абшчыннай зямельнай уласнасці, пры якой час ад часу рабілі перадзел зямлі з улікам колькасці членаў сям'і. Высокай нараджальнасці спрыялі таксама раннія шлюбы, дзіцячая смяротнасць, адсутнасць пенсіённага забеспячэння, калі адзінай крыніцай існавання бацькоў на старасці ці ў выпадку страты працаздольнасці былі дзеці. З адменай прыгоннага права міграцыйны рух сялян павысіўся. Галоўная сацыяльна-эканам. прычына міграцыі ў дарэвалюцыйны перыяд — растучая аграрная перанаселенасць і галеча вёскі. Нястача зямлі, нізкая ўраджайнасць, слабаразвітая прамысловасць прымушалі частку Н., асабліва сельскага, шукаць работу за межамі Беларусі.

Зніжэнне нараджальнасці і смяротнасці, узмацненне міграцыі назіраліся ў канцы 19 — пач. 20 ст. У гэты час на Беларусі паскорылася развіццё прамысловасці. Да 1914 нараджальнасць знізілася да 36,8 ‰, а смяротнасць да 21,3 ‰. За 16 гадоў (1897—1913) колькасць жыхароў у гарадах вырасла ў 1,5 раза і склала 14 % усяго Н. Амаль 80 % агульнай колькасці перасяленцаў нечарназёмнай паласы Расіі былі выхадцамі з Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай губ. Першая сусветная вайна выклікала скарачэнне нараджальнасці, рост смяротнасці і значныя міграцыйныя перамяшчэнні з прыфрантавых раёнаў.

Кастрычніцкая рэвалюцыя карэнным чынам пераўтварыла сацыяльныя адносіны ў краіне, якія істотна змянілі развіццё асноўных дэмаграфічных працэсаў. Ваенная інтэрвенцыя і грамадзянская вайна пагоршылі і без таго цяжкае становішча краіны. Эканоміка Беларусі была ўшчэнт разбурана. На пач. 1914 на тэр. Беларусі пражывала 7,5 млн. чал., на канец 1917 засталося 6,9 млн., а на пач. 1921 — толькі 6,7 млн. Прычыны гэтага — значныя ваенныя страты, адток Н. ў інш. раёны і за мяжу, перавышэнне смяротнасці над нараджальнасцю. СНК РСФСР дапамог органам аховы здароўя БССР, выдзеліўшы, напр., у 1920 на барацьбу з эпідэміяй грыпу 639 млн. руб. Разгарнулася праца па ліквідацыі высокай смяротнасці дзяцей. Было ўстаноўлена бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, першачарговае забеспячэнне харчовымі прадуктамі цяжарных жанчын, кормячых маці і дзяцей. Паказчык смяротнасці Н. да пач. 1923 знізіўся да 16,2 ‰, павысілася нараджальнасць. Аднак высокія тэмпы індустрыялізацыі рэспублікі, калектывізацыя і звязаныя з імі цяжкасці, шпаркі рост гарадоў, масавае далучэнне жанчын да грамадскай вытворчасці, узмацненне міграцыйнага руху, скарачэнне дзіцячай смяротнасці, а таксама асаблівасці ўзроставай структуры Н. прывялі да хуткага зніжэння нараджальнасці ў 30-я г. Каб спыніць яго, сав. ўрад прыняў шэраг мер: была пашырана сетка радзільных дамоў, дзіцячых садоў і ясляў, палепшана эканам. становішча мнагадзетных сямей. Былі забаронены аборты. Эфект гэтых мер быў кароткачасовым, і з 1939 у дынаміцы нараджальнасці зноў вызначыўся спад. Удзельная вага гарадскога Н. вырасла з 14 % у 1918 да 17 % у 1926 і 24,7 % у 1939. Вялікія страты Н. панесла рэспубліка ў час Вял. Айч. вайны. Гітлераўцы знішчылі ў Беларусі 2 млн. 200 тыс. жыхароў і ваеннапалонных, 380 тыс. чал. вывезлі на катаржныя работы ў Германію. Сотні тысяч загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе у тыле ворага, больш за 1 млн. чал. знаходзіліся ў эвакуацыі. У 1950 у БССР у асноўным дасягнуты даваенны ўзровень прамысловай і с.-г. вытворчасці. Дэмаграфічныя працэсы ўвайшлі ў мірнае рэчышча, але вынікі вайны і ў наш час адчуваюцца ў дэмаграфічным развіцці рэспублікі. Гэта — парушаная структура Н., полавая дыспрапорцыя, падарванае ў час вайны здароўе людзей і г. д.

БССР — адзін са шчыльна населеных раёнаў СССР. Займаючы менш за 1 % плошчы краіны, рэспубліка сканцэнтравала каля 4 % яе Н. Колькасць Н. рэспублікі пастаянна расце (гл. табл. 1).

Аднак тэмпы росту Н. ў БССР ніжэйшыя, чым у цэлым па СССР. Калі Н. краіны з 1950 па 1979 вырасла на 41 %, то ў БССР — толькі на 24 %, з 1979 па 1987 — адпаведна на 7,3 % і на 5,4 %. Тлумачыцца гэта больш нізкімі ў рэспубліцы тэмпамі натуральнага прыросту. Акрамя таго, да 80-х г. назіраліся значныя велічыні адмоўнага сальда міграцыі. Асабліва хутка расце гарадское насельніцтва: на пач. 1988 у БССР было 99 гарадоў і 111 пасёлкаў гарадскога тыпу, дзе пражывала амаль дзве трэці ўсяго Н. Колькасць жыхароў бел. вёскі з 1940 па 1987 зменшылася амаль у два разы, у той час як у цэлым па СССР крыху больш, чым на адну трэць. Гэта абумоўлена ў асноўным высокай інтэнсіўнасцю міграцыйнага адтоку і падзеннем натуральнага прыросту да мінусавых паказчыкаў.

**Полаўзроставая структура.** Вялікае эканам. і сацыяльнае значэнне мае полавы і ўзроставы склад Н. Сучасная полаўзроставая структура сфарміравалася пад уздзеяннем сацыяльна-эканам. і дэмаграфічнага развіцця рэспублікі за працяглы час. Істотны ўплыў зрабілі асаблівасці натуральнага руху, міграцыйных перамяшчэнняў, войны. Так, на полаўзроставую піраміду Н. 1987 (гл. графік) паўплывала развіццё Беларусі за апошнія 80 гадоў. Піраміда мае даволі вузкую аснову, расшыраную сярэдзіну, некалькі правалаў і істотныя перавагі мужчын у малодшых, жанчын — у старэйшых узростах. Колькасць Н. ў аснове піраміды ва ўзросце 0—4 гады меншая, чым ва ўзросце 25—29 гадоў. Правал у колькасці Н. ва ўзросце 10—19 гадоў выкліканы нізкай нараджальнасцю ў сярэдзіне 70-х г. Вельмі малая колькасць Н. ва ўзросце 40—44 гадоў, народжанага ў вайну; яна на трэць меншая, чым ва ўзросце 45—49 гадоў, народжаных у перадваенныя гады. Колькасць мужчын да 30 гадоў у рэспубліцы большая, чым жанчын. Гэта звязана з тым, што сярод нованароджаных заўсёды пераважае доля хлопчыкаў. Пасля 30 гадоў сітуацыя мяняецца на адваротную, што звязана з больш высокай смяротнасцю мужчынскага Н. Найбольш істотнае парушэнне ў суадносінах полаў назіраецца ва ўзросце

Табліца 1

**Колькасць насельніцтва Беларусі**

| Гады | Усё насельніцтва (тыс. чал.) | У тым ліку | | Удзельная вага гарадскога насельніцтва (працэнты) | Колькасць жыхароў на 1 км² |
|---|---|---|---|---|---|
| | | гарадское | сельскае | | |
| 1913 | 6899 | 990 | 5909 | 14 | 33 |
| 1940 | 9046 | 1925 | 7121 | 21 | 44 |
| 1959 | 8056 | 2481 | 5575 | 31 | 39 |
| 1970 | 9002 | 3908 | 5094 | 43 | 43 |
| 1979 | 9560 | 5263 | 4297 | 55 | 46 |
| 1988 | 10 143 | 6628 | 3521 | 65 | 49 |

за 60 гадоў, бо значная частка мужчын гэтага ўзросту загінула ў час вайны. Павелічэнне асновы ўзроставай піраміды 1987 звязана з некаторым ростам нараджальнасці ў 80-я г.

У рэспубліцы актыўна ідзе працэс пастарэння Н., што ставіць шэраг праблем, звязаных з дадатковымі затратамі на лячэнне, пенсіённае забеспячэнне, арганізацыю адпачынку, праблем псіхалагічнага і фізіялагічнага характару. На Беларусі гэты працэс больш прыкметны, чым у большасці саюзных рэспублік. У бліжэйшыя гады пастарэнне Н. ўзрасце, у пенсіённы ўзрост будзе выходзіць шматлікі кантынгент асоб, якія нарадзіліся ў даваенны час, а колькасць народжаных скароціцца. Толькі ў канцы стагоддзя колькасць асоб пенсіённага ўзросту пачне крыху скарачацца, калі гэтага ўзросту дасягнуць народжаныя ў гады вайны. Паводле перапісу 1979 удзельная вага Н. ў працаздольным узросце была значна вышэйшая (58,2 %), чым у 1970 (52,9 %), аднак у 80-я г. гэты паказчык зноў знізіўся. Істотна адрозніваецца полаўзроставая структура гарадскога і сельскага Н. У гарадах значна вышэйшая доля Н. ў дапрацаздольных, працаздольных і ніжэйшая — у пенсіённых узростах. Перавага мужчын у гарадах назіраецца толькі ва ўзросце да 15 гадоў, потым яна змяняецца перавагай жанчын. У сельскай мясцовасці колькасць мужчын большая, чым жанчын, ва ўсіх узростах да 40 гадоў, потым суадносіны мяняюцца на адваротныя, пры гэтым доля жанчын у старэйшых узростах вышэйшая, чым у горадзе. Зніжэнне паказчыкаў інтэнсіўнасці нараджальнасці — вынік абмежавання колькасці дзяцей у сям'і. Цяпер толькі адно з 13 народжаных — трэцяе дзіця ў сям'і. Больш за палову народжаных — першыя дзеці, а першыя і другія складаюць амаль 90 % народжаных.

**Натуральны рух насельніцтва.** Натуральны прырост Н. ў рэспубліцы ў пасляваенныя гады пастаянна зніжаўся. Калі ў 1959—69 ён у сярэднегадавым вылічэнні ў разліку на 1 тыс. жыхароў складаў 13,1 ‰, то ў 1970—79 — ужо 7,7 ‰, а ў 1979—86 — толькі 6,7 ‰. Гэта характэрна для гарадской мясцовасці, дзе натуральны прырост знізіўся з 15,4 ‰ у 1958—59 да 13,3 ‰ у 1970—78 і 12,4 ‰ у 1979—86, і яшчэ ў большай ступені для сельскай, дзе адпаведна знізіўся з 11,8 ‰ да 2,2 ‰ і 1,9 ‰. Звязана гэта ў першую чаргу з рэзкім зніжэннем нараджальнасці ў 60-я і 70-я г., калі, нягледзячы на рост агульнай колькасці Н., абсалютная колькасць народжаных зменшылася з 200 тыс. у 1960 да 150 тыс. у 1970. Адносна ўсяго Н. зніжэнне адпаведна з 24,4 ‰ да 16,2 ‰. У немалой ступені зніжэнню нараджальнасці спрыяе тое, што ў актыўны дзетародны перыяд уступалі жанчыны, народжаныя ў час Айч. вайны, колькасць якіх адносна невялікая. Зніжалася ў гэтыя гады і інтэнсіўнасць нараджальнасці. Паказчык сярэдняй колькасці дзяцей, якую нараджае жанчына за сваё жыццё, знізіўся ў рэспубліцы з 2,8 у 1958—59 да 2,3 у 1969—70, да 2,1 у 1978—79 і да 2,0 у 1980—81. У пач. 80-х г. не забяспечвалася нават простае ўзнаўленне Н. (для яго паказчык на адну жанчыну павінен быць не ніжэй 2,1—2,2 дзяцей, або 2,6—2,7 на кожную шлюбную пару). Прынятыя ўрадам




Полаўзроставы склад насельніцтва БССР на 1 студзеня 1987.

меры дзярж. дапамогі сем'ям, у якіх ёсць дзеці (прадаўжэнне водпуску па догляду за дзіцем да 1,5 года з частковай аплатай гэтага водпуску да дасягнення дзіцем 1 года, аднаразовая дапамога пры нараджэнні 1-га, 2-га і 3-га дзіцяці, павелічэнне дапамогі адзінокім маці і г. д.), прывялі да росту практычна ўсіх паказчыкаў нараджальнасці. Пэўную ролю адыграла і тое, што ў гэтыя гады ў рэспубліцы істотна ўзрасла колькасць і доля жанчын у актыўных дзетародных узростах. Для аптымальнага сацыяльна-эканам. развіцця рэспублікі неабходна забяспечыць большае ўзнаўленне Н.

За гады Сав. улады ў БССР рэзка скарацілася смяротнасць і павысілася сярэдняя працягласць прадстаячага жыцця. Калі на рубяжы 19 і 20 ст. яна не дасягала 40 гадоў, то ўжо ў 20-я г. перавысіла 50 гадоў, а ў канцы 50-х г. склала больш за 70 гадоў. Смяротнасць за гэты час знізілася з 26,5 ‰ да 15 ‰ у 20-я і да 8 ‰ у 50-я г. Спрыялі гэтаму павышэнне матэрыяльнага ўзроўню жыцця насельніцтва, паляпшэнне жыллёвых умоў і ўмоў працы і побыту, харчавання, рост санітарнай культуры, развіццё ахоўы здароўя. У 60-я г. упершыню адзначаны рост агульнага паказчыка смяротнасці ў БССР, выкліканы зменамі ўзроставай структуры Н., у прыватнасці ростам долі асоб старэйшых узростаў. У 1969—70 працягласць прадстаячага жыцця склала 72,4 года (68 для мужчын і 75,8 для жанчын; у 1958—59 яна раўнялася 70,3 года — 66,3 для мужчын і 73,3 для жанчын). Становішча змянілася ў 70-я г., калі практычна ўсе паказчыкі смяротнасці пачалі расці. У 1978—79 сярэдняя працягласць жыцця зменшылася да 71,4 года ў асноўным за кошт сельскага Н., для якога гэты паказчык склаў 66,3 года. Павялічваецца розніца ў працягласці жыцця мужчын і жанчын. Калі ў 1896—97 яна складала 1 год, то ў 1926—27 дасягнула ўжо 4 гадоў, у 1958—59 — 7 гадоў, у 1969—70 — амаль 8 гадоў, а ў 1978—79 склала каля 10 гадоў. Асабліва вялікі разрыў у актыўных працоўных узростах. Так, ва ўзросце 20—24 гадоў смяротнасць мужчынскага Н. ў 3—4 разы вышэйшая, чым жаночага. Смяротнасць сельскага Н. значна большая, чым гарадскога, асабліва сярод мужчын працаздольнага ўзросту. Зніжэ-

лася мацярынская смяротнасць. Паляпшэнне ўмоў працы і побыту, рост санітарнай культуры становіча адбіліся на працягласці жыцця ўсяго Н., але на паляпшэнне здароўя жанчын гэта мела большы ўплыў. Розніцу на 1—2 гады ў працягласці жыцця мужчын і жанчын вучоныя тлумачаць большай вынослівасцю жаночага арганізма, астатнія 6—8 гадоў — сацыяльна-эканам. прычынамі. Уплываюць асаблівасці ўмоў працы, спосабу жыцця, злоўжыванні алкаголем, курэннем і г. д. Для мужчын і жанчын, якія знаходзяцца ў шлюбе, характэрна меншая смяротнасць, чым для халастых і ўдоў. Істотна змянілася структура прычын смерці. Раней найбольш пашыранымі прычынамі смерці былі інфекцыйныя захворванні і туберкулёз. У наш час у БССР, як і ў інш. эканамічна развітых краінах, узровень смяротнасці Н. вызначаюць хваробы сістэмы кровазвароту, хваробы органаў дыхання, новаўтварэнні і няшчасныя выпадкі, атручванні і траўмы. На гэтыя захворванні прыпадае больш за 90 % усіх выпадкаў смерці. Сярод прычын, якія ўплывалі на павышэнне смяротнасці людзей сярэдняга і пажылога ўзросту, немалую ролю адыгрывалі рэзкае змяншэнне мышачна-рухальнай актыўнасці, забруджванне навакольнага асяроддзя, нерацыянальнае харчаванне, пашырэнне алкагалізму, курэння. Дзякуючы прынятым у 80-я г. мерам барацьбы за здаровы спосаб жыцця, паляпшэнню ўмоў працы і побыту Н. ўдалося спыніць далейшы рост смяротнасці. Сярэдняя працягласць жыцця вырасла з 70,8 года (65,6 для мужчын, 75,5 для жанчын) у 1983—84 да 71,4 года (66,7 для мужчын, 75,6 для жанчын) у 1985—86. Найбольш знізілася ў апошнія гады смяротнасць (амаль на 20 %) ад няшчасных выпадкаў, атручванняў і траўм, што ў значнай ступені звязана з узмацненнем барацьбы супраць п'янства і алкагалізму. Прымаюцца захады для зніжэння дзіцячай смяротнасці.

На ўзнаўленне Н. істотна ўплывае шлюбнасць. Узровень бясшлюбнасці ў рэспубліцы невысокі: 1—2 % для мужчын, 4—5 % для жанчын. Парушэнні полаўзроставай структуры, звязаныя з вайной, практычна ўжо не ўплываюць на шлюбнасць. Суадносіны полаў сярод моладзі выраўняліся. Дыспрапорцыі полаў шлюбаздольнага кантынгенту назіраюцца ў сярэдніх узростах, большыя — у старэйшых. Ужо ва ўзросце 30—40 гадоў для адной з двух незамужніх жанчын няма свабоднага мужчыны адпаведнага ўзросту. Гэта вынік адносна высокага ўзроўню разводаў і аўдавення. Ва ўзросце 20—24 гадоў бяруць шлюб прыкладна 60 % мужчын і 50 % жанчын. У апошні час павялічылася доля тых, хто жэніцца і выходзіць замуж у больш раннім узросце. Так, у 1960 сярод тых, хто браў шлюб ва ўзросце да 20 гадоў, было 2,7 % мужчын і 12 % жанчын, у 1970 — адпаведна 3,6 % і 22,2 %, у 1979—4 % і 25,5 %. Звязана гэта з паскарэннем тэмпаў развіцця грамадскага жыцця, акселерацыяй, арыентацыяй сучаснай моладзі на спалучэнне прафесійнай працы з навучаннем. Сярод тых, што бяруць шлюб ва ўзросце да 25 гадоў, мужчын 73,2 % і жанчын 82 %, на старэйшыя ўзросты застаецца адпаведна 26,8 % і 18 %; большасць паўторных шлюбаў прыпадае на ўзрост 25—29 гадоў, аднак высокая ўдзельная вага і ўзроставых груп 30—34 і 35—39 гадоў. З ліку аўдавелых і разведзеных паўторна выходзіць замуж у сярэднім толькі адна з трох жанчын. У рэспубліцы пашыраюцца мяшаныя па нацыянальнасці шлюбы (кожны пяты шлюб).

Колькасць сямей на Беларусі пастаянна расце, прычым больш хуткімі тэмпамі, чым колькасць усяго Н. Толькі за апошнія 10 гадоў прырост сямей быў у 2 разы большы, чым Н. Назіраецца тэндэнцыя разбуйнення сямей. Калі ў 1939 сярэдні склад сям'і раўняўся 4,2, у 1959—3,7, у 1970—3,6, то ў 1979—3,3 чал. Прычыны скарачэння складу сямей: падзел складаных сямей з некалькіх шлюбных пар на простыя (нуклеарызацыя сямей); павелічэнне колькасці сямей, у якіх у выніку разводу ці аўдавення няма шлюбнай пары (няпоўныя сем'і); змяншэнне колькасці дзяцей у сям'і і пашырэнне аднадзетнасці; амаладжэнне шлюбаў і больш ранні выхад дзяцей з сям'і бацькоў. Простая сям'я — самая пашыраная ў рэспубліцы. Паводле перапісу 1979 73,3 % усіх сямей складаліся з адной шлюбнай пары з дзецьмі або без дзяцей, 10,5 % сямей, у склад якіх, акрамя шлюбнай пары, уваходзіў адзін з бацькоў мужа ці жонкі або інш. сваякі. Сямей з дзвюма і больш шлюбнымі парамі было толькі 2,4 %, няпоўных сямей — каля 12 %. Найбольш пашыраны сем'і з 2, 3 і 4 чалавек. Доля такіх сямей пастаянна павялічваецца: у 1959 іх было 72 %, у 1970—76,5 %, а ў 1979—86,2 % ад агульнай колькасці сямей. Доля сямей з 5 і больш чалавек паменшылася з 23,5 % у 1959 да 13,8 % у 1979. З пакалення ў пакаленне зніжаецца сярэдняя колькасць дзяцей, народжаных жанчынай за ўсё жыццё. Так, замужнія жанчыны, якім на дату перапісу 1979 было 40—49 гадоў, за ўсё жыццё нарадзілі ў сярэднім па 2,5 дзіцяці, якім было 50—59 гадоў — па 2,8 дзіцяці, 60—69 гадоў — па 3,4 дзіцяці, а 70 гадоў і старэй — 3,8 дзіцяці. Як сведчаць гэтыя звесткі, жанчыны, што нарадзіліся да Айч. вайны, нарадзілі ў сярэднім па 3—4 дзяцей, а жанчыны, што нарадзіліся пасля вайны, абмежаваліся 1—2 дзецьмі. Рэзка павялічылася колькасць аднадзетных сямей.

У БССР, як і ў цэлым па СССР, назіраецца рост разводаў. З 1960 па 1980 сярэдняя колькасць разводаў у разліку на 1000 жыхароў вырасла ў 4,5 раза, а колькасць разводаў у адносінах да шлюбаў, узятых у тым жа годзе, павысілася больш чым у 5 разоў, у той час як па краіне гэтыя паказчыкі выраслі адпаведна ў 2,7 і ў 3 разы. У гарадах колькасць разводаў на 1000 жыхароў у 3 разы большая, чым у сельскай мясцовасці. Цяпер у БССР з 1000 сямейных пар штогод разводзіцца 13, часцей за ўсё мужчыны і жанчыны ва ўзросце 20—29 гадоў. За першыя 10 гадоў шлюбу, калі жанчыне 31—32 гады, распадаецца кожны пяты шлюб. Кожнае 6—7-е непаўналетняе дзіця — сведка разводу сваіх бацькоў. 53,5 % усіх шлюбаў распадаецца з прычыны смерці мужа, 22,6 % — смерці жонкі, 23,9 % — разводаў. Паводле перапісу 1979 ва ўзросце 45 гадоў на 10 замужніх жанчын прыпадала адна ўдава.

**Нацыянальны склад.** Беларусы на працягу ўсёй гісторыі існавання свайго этнасу засялялі этнічную тэрыторыю кампактным масівам і складалі пераважную колькасць Н. Паводле перапісу 1897 удзельная вага беларусаў у агульным абёме Н. складала ў сярэднім па бел. губернях 78 %. Самы высокі працэнт карэннага Н. быў у Магілёўскай (82 %) і Мінскай (76 %), самы нізкі — у Гродзенскай (44 %) губ. Другой па колькасці нацыянальнай групай былі яўрэі. Яны сяліліся гал. чынам у гарадах і мястэчках (дзейнічала мяжа аселасці). Трэцяе месца займалі рускія. Характэрная асаблівасць дарэвалюцыйнай этнічнай сітуацыі на Беларусі — істотнае адрозненне нацыянальнага

Табліца 2

**Нацыянальны склад насельніцтва БССР**

| Нацыянальнасці | 1926 г. | | 1959 г. | | 1970 г. | | 1979 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % |
| Беларусы | 4017 | 80,6 | 6532 | 81,1 | 7290 | 81,0 | 7568 | 79,4 |
| Рускія | 384 | 7,7 | 659 | 8,2 | 938 | 10,4 | 1134 | 11,9 |
| Палякі | 98 | 2,0 | 539 | 6,7 | 383 | 4,3 | 403 | 4,2 |
| Украінцы | 35 | 0,6 | 133 | 1,7 | 191 | 2,1 | 231 | 2,4 |
| Яўрэі | 407 | 8,2 | 150 | 1,9 | 148 | 1,6 | 135 | 1,4 |
| Іншыя | 42 | 0,9 | 42 | 0,4 | 52 | 0,6 | 61 | 0,7 |

складу Н. гарадоў і вёскі. У 1897 у гарадах пражывала толькі 17,1 % беларусаў, 57,5 % складалі яўрэі, 16,7— рускія, 6,1—палякі, інш. нацыянальнасці — 2,7 %. За гады Сав. улады значна змяніўся этнічны склад Н. Беларусі (гл. табл. 2).

У пасляваенны час тэрытарыяльная кампактнасць беларусаў крыху зменшылася, доля іх ва ўсім Н. знізілася, што тлумачыцца міграцыямі за межы БССР і прытокам іншанацыянальнага Н. Па долі карэннай нацыянальнасці ў складзе Н. Беларусь займае 4-е месца ў краіне пасля Арм. ССР (армян 89,7 %), РСФСР (рускіх 82,6 %), Літ. ССР (літоўцаў 80 %). Усяго ў СССР пражываюць 9463 тыс. беларусаў, з іх 7568 тыс. (80 %) расселены ў БССР, 1900 тыс.— у інш. саюзных рэспубліках: 1052 тыс. ў РСФСР, 406 тыс. у УССР, 181 тыс. ў Каз. ССР, 112 тыс. у Латв. ССР, 58 тыс. у Літ. ССР, 23 тыс. ў Эст. ССР. Шматлікія групы беларусаў жывуць за мяжой: у ПНР (180 тыс.), у ЗША (20 тыс.), у Канадзе (10 тыс.) і інш. краінах. У БССР жывуць прадстаўнікі амаль ста нацый і народнасцей. Кожны пяты жыхар — прадстаўнік некарэннай нацыянальнасці. Рускія складаюць другую па колькасці групу насельніцтва. З 1926 да 1979 колькасць рускіх павялічылася ў тры разы. Інтэнсіўная міграцыя рускага Н. на Беларусь звязана з індустрыялізацыяй, пасляваенным аднаўленнем нар. гаспадаркі. Рост колькасці рускіх у рэспубліцы ідзе таксама за кошт натуральнага прыросту і зліцця з імі часткі прадстаўнікоў інш. нацыянальнасцей (гал. чынам праз міжнацыянальныя шлюбы). Колькасць палякаў прыкметна павялічылася пасля ўз'яднання ў 1939 заходнебел. зямель з БССР. Пасля 1959 іх удзельная вага і колькасць у рэспубліцы зменшылася. Вялікую ролю ў гэтым адыгралі працэсы кансалідацыі бел. этнасу (значная частка ў свой час апалячаных беларусаў, якія не ведалі польскай мовы і культуры, пры перапісах 1970 і 1979 назвалі сябе беларусамі). Цяпер найбольш значнае рассяленне палякаў у Гродзенскай вобл. (74 % усіх палякаў у рэспубліцы). Самыя вялікія групы ўкраінцаў пражываюць на Палессі — у этнакантактнай зоне, якая мяжуе з УССР. Працэсы урбанізацыі закранулі ўсе нацыянальнасці рэспублікі. У 1926 у гарадах пражывала 8 % ад агульнай колькасці беларусаў, у 1979—50 %, рускіх адпаведна 34 % і 86 %, палякаў — 20 % і 36 %, украінцаў — 21 % і 80 %, яўрэяў 83 % і 99 %. У выніку урбанізацыі і міграцыі Н. колькасць і ўдзельная вага беларусаў, а таксама колькасць прадстаўнікоў інш. нацыянальнасцей у гарадах узрастае (гл. табл. 3).

Асноўная частка Н. Беларусі (79,8 %, 1979) лічыць роднай мову сваёй нацыянальнасці, у т. л. 83,5 % беларусаў, 98 % рускіх (гл. *Беларуская мова*). Для нацыянальных груп, якія пражываюць у рэспубліцы, характэрны інтэнсіўныя моўныя працэсы далучэння да рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін і валоданне беларускай як мовай карэннай нацыянальнасці. 62 % беларусаў свабодна валодаюць рускай мовай і 16 % лічаць яе роднай. Перапісам 1979 у БССР улічана 337 850 чал. інш. нацыянальнасцей, якія назвалі роднай бел. мову, разам з тым 452 106 асоб некарэннай нацыянальнасці свабодна валодаюць бел. мовай. Ёю свабодна валодае кожны трэці рускі, яўрэй, кожны шосты ўкраінец, кожны дзесяты паляк і татарын. Бел. мову лічаць роднай 74 % палякаў, 27 % татараў, 6 % украінцаў, 2 % яўрэяў, 1 % рускіх. За перыяд паміж перапісамі 1970 і 1979 колькасць асоб некарэннай нацыянальнасці, якія свабодна валодаюць бел. мовай, узрасла на 166 818 чал.

**Сацыяльна-эканамічная характарыстыка насельніцтва.** Фарміраванне сацыяльнай структуры Н. абумоўліваецца ў першую чаргу ўзроўнем развіцця вытворчых сіл і характарам вытворчых адносін. Адметнай рысай сацыяльнай структуры Н. дарэвалюцыйнай Беларусі (канец 19 — пач. 20 ст.) з'яўлялася тое, што ўдзельная вага прамысловай буржуазіі і пралетарыяту была невялікая, асноўную частку беларусаў складала бяднейшае і сярэдняе сялянства. Паводле перапісу 1897 сярод беларусаў 23,6 % складала нацыянальная буржуазія, 76,4 % — беднае сялянства, пралетарыят і паўпралетарыят. У 1913 у Беларусі налічвалася каля 400 тыс. наёмных рабочых (за выключэннем с.-г. рабочых, якіх да пач. 1-й сусветнай вайны было прыкладна 200 тыс. чал.). Асноўную частку сялянскіх гаспадарак складалі бядняцкія (69 %). Доля кулацкіх двароў дасягала 11 %, ім належала не менш паловы сялянскай с.-г. вытворчасці; каля 20 % складалі сярэднія гаспадаркі. Памешчыкам, царкве, дзяржаве належала 57,3 % усіх зямель. За гады Сав. улады сацыяльная структура Н. карэнным чынам змянілася (гл. табл. 4).

Эксплуататарскія класы былі ліквідаваны. Вядучае месца ў грамадстве заняў рабочы клас. Інтэнсіўна расце ўдзельная вага і колькасць служачых. Цяпер кожны чацвёрты, што працуе ў нар. гаспадарцы,— спецыяліст з вышэйшай ці сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Сярэднегадавая колькасць рабочых і служачых у нар. гаспадарцы ў 1940 была 1136 тыс. чал., у 1960—1887 тыс., у 1980 — 4046 тыс., у 1986 — 4305 тыс. чал. Знізіліся працэнт і колькасць калгаснікаў, што абумоўлена развіццём навукова-тэхнічнага прагрэсу, працэсамі урбанізацыі і міграцыі, ператварэннем многіх калгасаў у саўгасы. Сярэднегадавая колькасць калгаснікаў, што працуюць у грамадскай гаспадарцы калгасаў, у 1940 была 1150 тыс. чал., у 1960—1277 тыс., 1980—762 тыс., у 1986—710 тыс. чал. У 1979 доля тых, хто працаваў у нар. гаспадарцы, склала 52,2 % Н. (у 1959—51,6 %, у 1970—47,8 %). Сярод астатніх груп Н. паводле крыніц сродкаў існавання сты-

Табліца 3

**Этнічны склад гарадскога насельніцтва БССР**

| Нацыянальнасці | 1926 г. (БССР у тагачасных граніцах) | | 1959 г. | | 1970 г. | | 1979 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % |
| Беларусы | 333 | 39,3 | 1683 | 67,0 | 2707 | 69,3 | 3743 | 71,5 |
| Рускія | 132 | 15,6 | 480 | 19,4 | 769 | 19,7 | 978 | 18,7 |
| Украінцы | 7 | 0,9 | 86 | 3,5 | 145 | 3,7 | 186 | 3,6 |
| Палякі | 20 | 2,3 | 85 | 3,4 | 104 | 2,6 | 147 | 2,8 |
| Яўрэі | 340 | 40,1 | 145 | 5,8 | 146 | 3,7 | 134 | 2,6 |
| Іншыя | 16 | 1,8 | 22 | 0,9 | 37 | 1,0 | 46 | 0,8 |

Табліца 4

**Сацыяльны склад насельніцтва (у працэнтах)**

| | Гады | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1939 | 1959 | 1970 | 1979 |
| Усё насельніцтва | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| Рабочыя | 21,9 | 35,7 | 52,3 | 55,8 |
| Калгаснікі | 57,2 | 48,5 | 28,2 | 21,3 |
| Служачыя | 14,5 | 15,1 | 19,3 | 22,8 |
| Іншыя | 6,4 | 0,7 | 0,2 | — |

пендыяты складалі 2,6 %, пенсіянеры і асобы, што знаходзіліся на забеспячэнні дзяржавы,— 16,7, утрыманцы пэўных асоб, а таксама тыя, хто працаваў у асабістай падсобнай гаспадарцы,— 28,4, асобы, якія мелі інш. крыніцу сродкаў існавання і не назвалі яе,— 0,1 %.

**Адукацыйны склад.** Паводле перапісу 1897 сярод Н. ва ўзросце 9—49 гадоў пісьменныя складалі 32,0 %, у т. л. сельскія жыхары 28,1 %, гараджане 59,9 %. За гады Сав. улады ў рэспубліцы дасягнуты вялікія поспехі ў справе нар. адукацыі. Да 1959 практычна ўсё Н. было пісьменнае (гл. табл. 5).

Здзейснена ўсеагульная сярэдняя адукацыя. Для падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў і рабочых створана сетка вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. На пач. 1986/87 навучальнага года ўсімі відамі навучання было ахоплена 4 млн. чал. (40 % усяго Н.), з іх вучні агульнаадукацыйных школ складалі 37,2 %, у прафесійна-тэхнічных вучылішчах займалася 162 тыс. чал., у сярэдніх спецыяльных навучальных установах — 139 тыс., у 33 вышэйшых навучальных — 180 тыс. студэнтаў. За 1946—86 вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы рэспублікі падрыхтавалі 1773 тыс. спецыялістаў, з іх 669 тыс. чал. з вышэйшай адукацыяй. На 1000 чал. (перапіс 1979), якія працавалі ў нар. гаспадарцы, вышэйшую і сярэднюю (поўную і няпоўную) адукацыю мелі 763 чал. (у 1970—594). У БССР гэты паказчык ніжэйшы за сярэднесаюзны (805 чал. на 1000). У 1979 у параўнанні з 1970 колькасць рабочых з вышэйшай, незакончанай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй (у разліку на 1000 чал., занятых у нар. гаспадарцы) узрасла ў 2 разы, падвоілася колькасць рабочых з сярэдняй агульнай адукацыяй. Сярод калгаснікаў колькасць асоб з вышэйшай, незакончанай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй таксама ўзрасла ў 2 разы, а тых, што мелі агульную сярэднюю адукацыю,— у 3 разы. У 1979 на 1000 чал., занятых пераважна фізічнай працай, прыпадала 677 чал. з вышэйшай і сярэдняй (поўнай і няпоўнай) адукацыяй, а сярод занятых пераважна разумовай працай — 987 чал. (у 1959 адпаведна 223 і 911 чал.). Значна павысіўся ўзровень адукацыі сельскага Н. У 1979 сярод сельскіх жыхароў, якія працавалі ў нар. гаспадарцы, 585 чал. з 1000 мелі вышэйшую і сярэднюю (поўную і няпоўную) адукацыю (у 1939 толькі 66 чал. з 1000). Павышэнне ўзроўню адукацыі сельскага Н. ідзе больш інтэнсіўна, чым гарадскога (з 1970 да 1979 адукацыйны патэнцыял сельскага Н. павысіўся на 43 %, гарадскога — на 12 %). Прыкметна зблізіўся і ўзровень адукацыі мужчын і жанчын. Калі ў 1939 на 1000 мужчын прыпадала 114 чал. з вышэйшай і сярэдняй (поўнай і няпоўнай) адукацыяй, а на 10000 жанчын — 72 чал. з вышэйшай і сярэдняй (поўнай і няпоўнай) адукацыяй, то ў 1979— 648 і 549; сярод Н., якое працуе, розніца фактычна знікла — 779 і 748. Згладжваюцца дыспрапорцыі ва ўзроўнях адукацыі розных нацыянальных груп.

У духоўным развіцці Н. рэспублікі вялікая роля належыць культурна-асветным установам. У 1987 працавалі 6289 клубных устаноў, 17 тэатраў, 98 музеяў, 7546 кінаўстановак, 6521 масавая бібліятэка з кніжным фондам 100,0 млн. экз. Выходзіць 110 часопісаў, з іх 31 на бел. мове, 215 газет, з іх 130 на бел. мове, выдадзена 3001 кніга і брашура (1987). У разліку на 1000 чал. Н. выдадзена 5655 экз. кніг і 519 экз. газет (у 1913 адпаведна 37 і 10 экз.). Адбываецца працэс выраўноўвання культурна-бытавых умоў жыцця ў сельскіх і гарадскіх населеных пунктах.

*Л. П. Шахоцька, Г. І. Каспяровіч.*

Табліца 5

**Пісьменнасць насельніцтва БССР ва ўзросце 9—49 гадоў (паводле перапісаў)**

| Перапісы | Працэнт пісьменных | | |
|---|---|---|---|
| | Усяго | Мужчыны | Жанчыны |
| 1897 | 32,0 | 43,5 | 20,7 |
| 1926 | 59,7 | 79,1 | 41,3 |
| 1939 | 80,8 | 90,7 | 71,4 |
| 1959 | 99,0 | 99,5 | 98,6 |
| 1970 | 99,8 | 99,8 | 99,8 |
| 1979 | 99,9 | 99,9 | 99,9 |

**НАСІЛКІ**, прыстасаванне ў выглядзе дзвюх жардзін з насланымі на іх дошкамі для пераносу гною, каменняў і г. д.

**НАСІЛЫ**, прыстасаванне ў выглядзе дзвюх невялікіх жардзін, асобных або збітых дошкамі, для пераносу коп сена.

**НАСО́ВІЧ** Іван Іванавіч [26.9 (7.10). 1788, в. Гразівец Чавускага р-на — 25.7(6.8).1877], беларускі моваязнавец-лексікограф, фалькларыст, этнограф. Скончыў гімназію і духоўную семінарыю ў Магілёве (1812). Працаваў настаўнікам, інспектарам Аршанскага, рэктарам Мсціслаўскага і Магілёўскага духоўных вучылішчаў (1813—22), загадчыкам, наглядчыкам, выкладчыкам Дынабургскай гімназіі, Маладзечанскага, Свянцянскага дваранскіх вучылішчаў (1822—43). Пасля адстаўкі (1843) пасяліўся ў Мсціславе і заняўся навуковай працай. З мэтай збірання фальклорна-этнагр. і моўных матэрыялаў аб'ехаў Мінскую, Гродзенскую і Магілёўскую губ. У 1850 даслаў у Аддзяленне рус. мовы і славеснасці Пецярбургскай АН рукапісныя працы «Кароткія філалагічныя назіранні над беларускай гаворкай», «Невялікі беларускі слоўнік» і «Зборнік беларускіх прыказак» (каля 1000 запісаў). У 1852 апублікаваны зборнік «Беларускія прыказкі і прымаўкі» з тлумачэннямі да іх. Па прапанове Аддзялення рус. мовы і славеснасці склаў першы гіст. слоўнік бел. мовы «Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (Увараўская прэмія 1865, рукапіс зберагаецца ў б-цы АН СССР у Ленінградзе), дзе растлумачаны каля 13 тыс. слоў. У 1864 пераехаў у Пецярбург, працаваў у архіве Публічнай б-кі (да 1870), супрацоўнічаў з Рус. геагр. т-вам (з 1865 член-супрацоўнік Аддзялення этнаграфіі). У 1867 надрукаваны «Зборнік беларускіх прыказак» (залаты медаль Рус. геагр. т-ва), у які ўключана каля 3500 прыказак, прымавак, праклёнаў, скорагаворак, пажаданняў, прывітанняў і інш. У зборніку раскрываецца сэнс прыказак, выяўляецца іх паходжанне, даюцца эквіваленты з рус.



І. І. Насовіч.

мовы, а ў многіх выпадках і з інш. моў. У 1868 выйшаў зборнік «Беларускія прыказкі і загадкі». Найбольш каштоўныя этнагр. матэрыялы змешчаны ў капітальнай працы Н. «Слоўнік беларускай мовы» (1870), больш за 30 тыс. слоў з тлумачэннямі, якія даюць багатыя звесткі па матэрыяльнай і духоўнай культуры, сямейнаму і грамадскаму побыту беларусаў. У 1881 выдадзены «Дадатак да беларускага слоўніка І. І. Насовіча» (каля 1 тыс. новых слоў). Этнагр. каштоўнасць мае прадмова да «Беларускіх песень» (1873, больш за 350 тэкстаў), у якой раглядаюцца сямейныя, каляндарныя абрады, звычаі і святы. Недахопам фальклорных зборнікаў з'яўляецца адсутнасць пашпартызацыі запісаў вуснапаэтычных твораў, недакладнасць іх класіфікацыі, перадрук з ранейшых публікацый без спасылак на іх, тлумачэнні часткі твораў і слоў з пазіцый хрысціянства. Н. не зразумеў дуалістычнай сутнасці абраднасці, не прызнаваў яе язычніцкай падасновы. Частка яго рукапіснай спадчыны не выяўлена (зборнік легенд, паданняў, былін, баек, зборнік песень). Аўтар гіст. нарыса «Аб плямёнах да часоў Рурыка, што засялялі беларускую тэрыторыю» (рукапіс у б-цы АН СССР у Ленінградзе), «Успамінаў майго жыцця» (рукапіс у Ін-це мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР). Фактычныя мовазнаўчыя (слоўнікавыя), фальклорныя і этнагр. матэрыялы, сабраныя Н., не страцілі свайго значэння і ў нашы дні.

*Тв.*: Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. (Факс. выд.)

*В. К. Бандарчык.*

**НАСО́Ў**, верхняе расхіннае сялянскае адзенне з белага даматканага палатна. Лакальныя назвы касталан, балахон. Падобны на халат, часта з шырокім адкладным каўняром. Апраналі на кашулю, зімою на кажух. Да пач. 20 ст. быў пашыраны ў Віцебскай, на Пн Мінскай і Магілёўскай губ., а таксама на Смаленшчыне і Пскоўшчыне.

**НАСТА́ЎКА**, традыцыйная рыбалоўная снасць у выглядзе адкрытага зверху і знізу ўсечанага конуса. Архаічны тып — плеценая з дубцоў, пазнейшы — сеткавая на драўляным каркасе (рабіўся з двух злучаных прутамі абручоў). Каркас абцягвалі адной густой і адной або дзвюма рэдкімі сеткамі. Н. рыбачылі ў зарослых травой і зеллем вадаёмах; невялікімі Н. лавілі ўброд, вялікімі — з лодкі. Н. вертыкальна апускалі на дно і як бы абгароджвалі ім рыбу, якую заганялі шастом або вяслом у сетку. З вады рыбу даставалі рукамі. Лоўля рыбы Н. была характэрна для Палесся. *І. М. Браім.*

**НАСТО́ЛЬНІК**, тканы выраб, прызначаны для засцілання стала; тое, што і *абрус*.

**НАЦЫЯ** (ад лац. natio племя, народ), тып этнасацыяльнай супольнасці людзей, што прыходзіць на змену феадальнай *народнасці* і ўзнікае на аснове капіталістычнага або сацыялістычнага спосабу вытворчасці. Паняцце Н. дыскусійнае; у сучасным сав. грамадазнаўстве існуюць розныя падыходы да яго вызначэння. Асновы матэрыялістычнага разумення Н. залажылі К. Маркс і Ф. Энгельс. Іх ідэі творча развіты У. І. Леніным, які раскрыў эканам. абумоўленасць узнікнення Н. пры капіталізме, узаемасувязі эканам. і культурных фактараў у працэсе развіцця Н., актыўны характар уздзеяння суб'ектыўнага фактару, ролю розных класаў і сацыяльных сіл, класавую дыферэнцыраванасць нацыянальнай культуры. Ім вызначаны і абгрунтаваны прынцыпы нацыянальнай палітыкі ў сацыяліст. грамадстве, акрэслены перспектывы развіцця Н. У сав. грамадазнаўстве найбольш пашыраны падыход, які грунтуецца на сталінскай канцэпцыі нацыянальнага пытання. Ядро яго складае вызначэнне Н. як устойлівай супольнасці людзей, якая гістарычна склалася «на базе агульнасці мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу, які праяўляецца ў агульнасці жыцця і культуры» (Сталін І. В. Соч. Т. 2. М., 1954. С. 296). З сярэдзіны 1920-х г. яно стала пануючым. У 1960—1-й пал. 80-х г. далей развіта ў працах М. І. Кулічэнкі, С. Т. Калтахчана, І. П. Цамерана і інш. У сучаснай сав. этнаграфіі сфарміраваўся падыход, заснаваны на творчым развіцці ленінскага вучэння аб Н., сучаснай тэорыі этнасу (Ю. У. Брамлей, К. В. Чыстоў, С. А. Аруцюнаў), тэарэтычным асэнсаванні вынікаў вывучэння канкрэтных пытанняў фарміравання і развіцця буржуазных нацыянальных супольнасцей (Т. М. Ісламаў, А. С. Мыльнікаў, І. С. Мілер, В. І. Фрэйдзон і інш.). Гэтыя погляды фарміруюцца ў цэласную канцэпцыю. Н. разглядаецца як этнасацыяльны арганізм. Эканам. аснову ўзнікнення нацыянальных супольнасцей буржуазнага тыпу стварае капіталіст. таварная вытворчасць, для поўнай перамогі якой «неабходна заваяванне ўнутранага рынку буржуазіяй, неабходна дзяржаўнае згуртаванне тэрыторый з насельніцтвам, якое гаворыць на адной мове, пры знішчэнні ўсякіх перашкод развіццю гэтай мовы і замацаванню яе ў літаратуры» (Ленін У. І. Тв. Т. 20. С. 372). Капіталістычная таварная вытворчасць патрабуе адэкватнага, арганізаванага ў маштабах усяго сацыяльнага арганізма, механізма трансляцыі этнакультурнай інфармацыі. Ён уключае нар. асвету, мастацкую культуру і сродкі масавай інфармацыі, якія выкарыстоўваюць уніфікаваны сродак зносін — навукова апрацаваную, кадыфікаваную літаратурную мову. Нацыянальны камунікатыўны механізм ствараецца ў працэсе асэнсаванай і мэтанакіраванай дзейнасці нацыянальнай інтэлігенцыі, якая вывучае рэальна існуючыя формы мовы і этнічнай культуры, пераўтварае іх і прыстасоўвае да патрабаванняў нацыянальнага развіцця. Уздзеянне нацыянальнага камунікатыўнага механізма прыводзіць да распаўсюджання агульнаэтнічнай нацыянальнай самасвядомасці, яна арыентуе сваіх носьбітаў пераважна на культурныя каштоўнасці ўласнай Н. У канчатковым выніку гэта павінна прыводзіць да згладжвання культурна-бытавых і дыялектных адрозненняў і дасягнення высокага ўзроўню аднароднасці насельніцтва. Наяўнасць нацыянальнага камунікатыўнага механізма забяспечвае ўзнаўленне асноўных уласцівасцей этнасу. Але на гэтым узроўні развіцця Н. не застрахавана ад знешніх дэструкцыйных уплываў. Таму «з пункту гледжання нацыянальных адносін, найлепшыя ўмовы для развіцця капіталізму прадстаўляе, несумненна, нацыянальная дзяржава» (Там жа. С. 376). Паліт. межы дакладна акрэсліваюць і стабілізуюць этнічную тэрыторыю, на якой усталёўваецца цэласнасць гаспадарчых сувязей — нацыянальны рынак. У выніку гэтага Н. пераўтвараецца ў надзвычай устойлівы этнасацыяльны арганізм.

У залежнасці ад этнасацыяльных і паліт. умоў выдзяляюць 2 асноўныя варыянты фарміравання нацыянальных супольнасцей у капіталістычным грамадстве. Пры першым варыянце (характэрны для большасці народаў Зах. Еўропы, Паўн. і Паўд. Амерыкі) Н. фарміруецца з розных этнічных (часам і расавых) груп. Узнікненне эканам. агульнасці некалькі апярэджвае ўласна этнакансалідацыйныя працэсы, а на-



Настаўка.

цыянальная свядомасць узнікае ў выніку трансфармацыі ўсведамлення прыналежнасці да пэўнай дзяржавы. Пры другім варыянце (часам яго называюць нацыянальным адраджэннем) некалькі Н. фарміруюцца ў межах буйных шматэтнічных дзяржаў (Аўстра-Венгрыя, Расійская імперыя) з рэальна існуючых этнічных, этналінгвістычных і лінгваэтнагр. супольнасцей. У гэтым выпадку асабліва выяўляецца актыўная роля суб'ектыўнага фактару. Працэсы станаўлення нацыянальнай культуры і самасвядомасці выкарыстоўваюць передавыя сацыяльныя сілы грамадства для абгрунтавання заканамернасці і неабходнасці стварэння незалежнай нацыянальнай дзяржавы, прыцягнення шырокіх нар. мас, сялянства, «як найбольш шматлікага і найбольш «цяжкага на ўздым» слоя насельніцтва ў сувязі з барацьбой за палітычную свабоду наогул і за правы нацыянальнасці ў прыватнасці» (Там жа. С. 377). Заваёва паліт. незалежнасці і нацыянальнай кансалідацыі дасягаецца ў працэсе нацыянальна-вызваленчага руху. Да гэтага варыянта адносіцца і працэс фарміравання бел. Н. буржуазнага тыпу (гл. *Беларусы*). Характэрная рыса ўсіх буржуазных Н.— класавая дыферэнцыяцыя нацыянальнай культуры. Гэта незакончаная завяршэнню нацыянальнай кансалідацыі, дэстабілізуе Н. як цэласную сістэму. Для нейтралізацыі гэтага фактару нацыянальная буржуазія выкарыстоўвае асобную форму ідэалогіі — нацыяналізм, насаджае ўсведамленне аб выключнасці ўласнай Н. ў сацыяльным, культурным, маральным аспектах, выхоўвае варожасць да прадстаўнікоў інш. народаў.

Супярэчнасці этнічнага парадку, якія стрымліваюць развіццё Н., знікаюць пры сацыялістычным ладзе. Сацыялістычная Н. характарызуецца адпаведнымі эканам. базісам і сацыяльнай структурай, якія істотна ўплываюць на ўвесь этнічны воблік, ствараюць перадумовы дасягнення вышэйшага ўзроўню ўсеагульнай культуры. У цэлым канцэпцыя сацыяліст. Н. яшчэ фарміруецца. Валюнтарысцкі падыход да праблемы развіцця Н. ва ўмовах сацыялізму, заснаваны на механічным разуменні працэсаў збліжэння народаў, з'явіўся адным з фактараў абвастрэння нацыянальнага пытання ў СССР на сучасным этапе. У. І. Ленін адзначаў, што нацыянальныя і дзярж. адрозненні паміж народамі і краінамі «будуць трымацца яшчэ вельмі і вельмі доўга нават пасля ажыццяўлення дыктатуры пралетарыяту ў сусветным маштабе» (Там жа. Т. 31. С. 70). У сучасны момант яшчэ не выкарыстаны ўвесь патэнцыял сацыялістычнай Н. ў сацыяльна-эканам. і асабліва культурным развіцці краіны. *П. У. Церашковіч.*

**НАЦЯГУ́Ш**, прылада для нацягвання абручоў на корпус бандарных ці выдзеўбаных пасудзін або жалезных шын на колы традыцыйных вазоў і інш. Мясцовыя назвы — нацягач, сабака. Уяўляў сабой драўляную ручку-рычаг з крукам на адным канцы, якім ён чапляўся за абруч. Пры нацягванні жалезных шын на колы выкарыстоўвалі звычайна больш трывалыя Н. з жалезным крукам і падоўжанай ручкай. Спарадычна сустракаецца ў наш час.

**НАЧО́ЎКІ**, н о ч в ы, карытападобная пасудзіна з шырокім адкрытым верхам. Прызначаліся для мыцця бялізны, прыгатавання сечанай капусты (якую ссыпалі затым у бочкі), мяса для каўбас і інш. Рабілі з драўлянага цурбана (асіны, ліпы), колатага папалам; ёмістасць выдзёўбвалі цяслой, сценкі і дно знутры згладжвалі скобляй, разцом. З сярэдзіны 20 ст. замест драўляных усё часцей ужываюцца металічныя Н., якія бытуюць і ў наш час. Невялікія Н. для ачысткі зерня называюцца *апалушкі*. *В. С. Цітоў.*

**«НАШ КРАЙ»**, навукова-папулярны краязнаўчы часопіс. Орган *Цэнтральнага бюро краязнаўства*. Выдаваўся на бел. мове ў Мінску з кастр. 1925 да кастр. 1930. З ліст. 1930 называўся *«Савецкая краіна»*.





Нацягуш.

Начоўкі.

**«НА́ША НІ́ВА»**, грамадска-палітычная, навукова-папулярная і літаратурна-мастацкая газета ліберальна-дэмакратычнага кірунку. Выдавалася штодзённа на бел. мове ў Вільні з 10(23).11.1906 да 7(20).8.1915 кірыліцай і лацінкай [да 18(31).10.1912, пазней — кірыліцай]. Заснавана нелегальнай леванароднiцкай Беларускай сацыялістычнай грамадой (БСГ). Рэдактары-выдаўцы С. Вольскі, А. Уласаў (з 8.12.1906), Я. Купала (з 7.3.1914 рэдактар, з 16.5.1914 рэдактар-выдавец). Сваё прызначэнне бачыла ў сацыяльным, нацыянальным і духоўным адраджэнні бел. народа, барацьбе за яго самавызначэнне. Важнай задачай лічыла ўсебаковае развіццё мовы, літаратуры і інш. галін духоўнай культуры беларусаў, стварэнне арыгінальнага нацыянальнага стылю ў паэзіі, прозе, архітэктуры, тэатральным, музычным і выяўленчым мастацтве на аснове творчага засваення здабыткаў айчыннага фальклору і дасягненняў сусветнай мастацкай культуры. Імкнулася максімальна наблізіць навуку і мастацкую культуру да штодзённага побыту працоўнага народа. Супрацоўнікі газеты вывучалі гісторыю, фальклор, рэлігію, традыцыйныя формы нар. культуры беларусаў, арганізоўвалі тэатральна-музычныя і інш. гурткі. На яе старонках друкаваліся творы Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, З. Бядулі, М. Гарэцкага, А. Гаруна і інш. Яна спрыяла станаўленню бел. публіцыстыкі і літаратурна-мастацкай крытыкі, абараняла духоўныя каштоўнасці народа — родную мову, культурную і гіст. спадчыну, нацыянальную літаратуру і інш. віды мастацтва ад нападак рэакцыйнага друку, выкрывала антынар. палітыку царызму, якія адмаўлялі нацыянальную самастойнасць бел. народа, ігнаравалі яго этнагр. самабытнасць. Газета наладзіла комплекснае вывучэнне краю (сярод яе раздзелаў — «Вясковае і гарадское жыццё», «Народная асвета», «З усіх бакоў», «З Беларусі і Літвы», «Сельская гаспадарка», «Артыкулы навукова-папулярныя і артыкулы па гісторыі і геаграфіі», «Паштовая скрынка» і інш.). Толькі за першыя тры гады газета змясціла 906 карэспандэнцый з 489 вёсак і мястэчак Беларусі. На яе старонках асвятляліся падзеі рэвалюцыйнага руху 1905—07 на Беларусі, нацыянальныя асаблівасці нар. побыту, узаемадзеянне розных культур у краі, разнастайныя формы нар. кааператыўнага руху, эканам. побыт і сямейны бюджэт сялян, рамеснікаў, бел. эмігрантаў у ЗША (артыкулы А. Уласава, Я. Окліча, Е. Канчара, А. Бульбы і інш.). Сярод матэрыялаў на гэту тэму — артыкулы «Мужыкі і мяшчане» (народны побыт у Капылі) Ц. Гартнага (1.1.1909), «Колькі слоў аб даўняй веры беларусаў» В. Ластоўскага (8 і 15.4.1910), «Аб культурнай працы паміж беларусамі» Я. Окліча (15.4.1910), «Вёска і горад» (пад крыпт. Г. Б., 12.5.1911) і інш. Вывучэнню і прапагандзе нар. рамёстваў прысвечаны артыкулы «Аб беларускім местачковым і вясковым хатнім рамястве» (рэдакцыйны; 11.3. 1908); асобным дадаткам надрукаваны арт. «Аб арганізацыі хатняга рамяства» А. Бульбы (24.2.1911). Чытачам і карэспандэнтам газеты прапанавалася анкета, паводле якой прысылаліся звесткі пра разнастайныя нар. промыслы — ганчарны, сталярны, ткацкі, швейны і інш. Падрабязна асвятляліся штогадовыя выстаўкі бел. прыкладнога мастацтва, с.-г. і інш. выстаўкі (18.3.1910; 7.4.1911; 29.3.1913; 19.9.1913 і інш.).

Вял. духоўнай каштоўнасцю пісьмен-

**НЕВАД**



Неглюбскі строй. Дзяўчына ў святочным уборы. Вёска Неглюбка Веткаўскага раёна. 1930-я г.

Невад.

нікі і публіцысты «Н. н.» лічылі нар. дойлідства, старадаўнюю архітэктуру, усе віды і жанры нацыянальнага фальклору, жывую нар. мову ў яе літаратурных формах і шматлікіх дыялектах. Пра неабходнасць яе захавання, адраджэння і прапаганды газета пісала амаль у кожным нумары, заклікала інтэлігенцыю і народ да аднаўлення нацыянальнай памяці і грамадскага сумлення. Друкавала новыя і аднаўляла забытыя запісы нар. песень, казак і легенд, рэцэнзіі на этнагр. і фальклорныя зборнікі, апісанні нар. звычаяў, гульняў і інш. Асаблівым клопатам газеты было адраджэнне аўтэнтычнага фальклору, нар. песеннай культуры, нар. тэатра; яна звярталася да чытачоў з просьбай збіраць і прысылаць беларускія этнаграфічныя матэрыялы, асаблівую ўвагу звярнуць на батлейку. Сярод публікацый на гэтую тэму артыкулы «Збірайце народныя песні!» А. Грыневіча (19.8.1910), «Пра беларускі тэатр» А. Бульбы (29.9.1911), «Купалле» (31.5.1912) і «Аб патрэбе стылю ў жыцці народа» Власта (В. Ластоўскі) і інш. Гэтай праблеме прысвечаны выдадзеныя рэдакцыяй газеты брашуры укр. пісьменніка Д. Дарашэнкі (у перакладзе Я. Журбы) «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» (1909), А. Бульбы «Колькі слоў аб дзявочай апратцы на Беларусі» (1911). Пра маральную чысціню і эстэтычную каштоўнасць нар. песень, абрадаў і строяў пісалі Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі, Цётка, З. Бядуля, С. Палуян, Л. Гмырак і інш. «Як па твары пазнаюць чалавека,— даказваў А. Грыневіч,— так па песні, асабліва народнай, пазнаецца цэлая нацыя, яе характар і душа» (23.7.1909). Інфармацыя пра побыт і нар. культуру змяшчалася ў штогадовых «Беларускіх народных календарах», якія з 1910 да 1915 выдавала рэдакцыя газеты. «Н. н.» садзейнічала адраджэнню і прапагандзе бел. вечарынак (артыкулы «Першая беларуская вечарынка», 18.2.1910; «Беларуская вечарынка ў Пецярбургу» М. Крапіўкі і «Этнаграфічны вечар у Вільні», 4.3.1910; «Беларускае ігрышча 21 лістапада ў Вільні» А. Бульбы, 1.12. 1911; «Святкаванне Купалы ў Вільні» Я. Купалы, 28.6.1912, карэспандэнцыі Я. Коласа, З. Бядулі, Я. Лёсіка і інш.). Супрацоўнік рэдакцыі І. І. Луцкевіч быў ініцыятарам стварэння *Беларускага музея* ў Вільні. Рэдакцыя газеты звярталася да сваіх супрацоўнікаў і чытачоў з просьбай прысылаць фатаграфіі і рысункі бел. тыпаў у нацыянальных строях, фатаграфіі старых капліц, цэркваў і касцёлаў, інш. будынкаў (3.9.1911). Многія з гэтых матэрыялаў друкаваліся ў «Н. н.», у т. л. «Мужыкі...» (17.8.1907), «Зубры» (15.2.1908), «Мінчукі» (4.12.1908), «Адвечныя дрэвы. Альтана ў дубе» (16.12.1910), «Ваколіцы Навагрудка» (31.3.1911), «Будоўлі ў беларускім стылі» (6.1.1911) і інш. Нар. побыт, этнагр. і нацыянальныя асаблівасці традыцыйнай нар. культуры адлюстраваліся ў вершах і паэмах Я. Купалы, апавяданнях і ўрыўках з паэмы «Новая зямля» Я. Коласа, творах М. Багдановіча, апавяданнях пра нар. тыпы К. Лейкі, «Лістах з дарогі» Ядвігіна Ш. і інш.

*У. М. Конан.*

**НЕ́ВАД**, традыцыйная рыбалоўная снасць. Складаецца з сеткавага мяшка (*куля*) і двух прывязаных да яго сеткавых палотнішчаў (крылаў), па супрацьлеглых баках кожнага працягвалі вяроўкі (цецівы). Верхняя вяроўка аснашчалася паплаўкамі (з кары дрэў ці бычыных пузыроў), ніжняя — грузіламі (з камянёў, загорнутых у анучы, аплеценых лыкам ці абвітых матузамі). Каб у час руху крылы не скручваліся, на іх канцах мацавалі тоўстыя палкі (клячы, кабылы). З абодвух канцоў да кляч прывязвалі вяроўкі (вілы), якія пры нацягванні ўтваралі разам з палкамі трохвугольнікі. Пасярэдзіне віл прымацоўвалі другія вяроўкі (кадолы), за якія цягнулі Н. Закінуўшы снасць у ваду так, каб яна ўтварала сеткавую сцяну, уручную або з дапамогай спец. прыстасаванняў (*бабы, варатка*) Н. працягвалі ў вадзе, а потым выбіралі ў лодкі ці на бераг. Рыбу, што трапіла ў кулі, выбіралі рукамі або вычэрпвалі *падсакай*. Каб Н. не гнілі, іх прасмольвалі. У залежнасці ад памераў і спосабаў лоўлі вылучалі *зімовыя невады* (даўжыня крыла каля 200 м, куля каля 30 м; прызначаліся для падлёднай лоўлі рыбы ў азёрах), летнія Н., або падвалокі (у 2 разы меншыя за зімовыя; рыбачылі імі ў адкрытай вадзе з лодак), *мутнікі* і *брэдні*. Н. вядомы са старажытных часоў. У 19 — пач. 20 ст. летнія Н. і брэдні былі пашыраны на ўсёй Беларусі, зімовыя Н. і мутнікі — у Паазер'і. *І. М. Браім.*

**НЕ́ГЛЮБСКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага нар. адзення Падняпроўя. Бытаваў у 19 — сярэдзіне 20 ст. на У Веткаўскага р-на, а таксама на Пд Краснагорскага і ПнЗ Навазыбкаўскага (Бранская вобл., РСФСР) р-наў. У параўнанні з іншымі нар. строямі больш прыземісты, цяжкаваты; падобны да рускіх і укр. нар. касцюмаў, яму ўласцівы разнастайнасць форм адзення, якія ўзніклі ў розныя гіст. перыяды.

У жаночым гарнітуры вызначаліся 3 комплексы: кашуля, 2-полкавая *панёва* (плахта), фартух (запаска), гарсэт, павойнік з саматканай хусткай; кашуля, спадніца-саян (зрэдку андарак), фартух, запінка (часам гарсэт), крамная хустка, завязаная на валасы і выкладзеная спераду на «рог» (выступ-каркас); кашуля, калышка, фартух, *кубак* (насілі дзяўчаты). Кашулю шылі з 3 (суцэльная) ці 5 (з падточкай) полак ільняной ці баваўнянай тканіны. Кроілі з плечавымі ўстаўкамі, суцэльнымі з узорыстай полкай рукава або сшытымі з ёй, разрэзам пазухі па цэнтры грудзей, каўняром-стойкай (каля 1,5 см вышынёй) і вузкім рукавом з каўнерцам ці кароткай фальбонай. Арнамент натыкання часцей геаметрычны — зубчыкавыя, пункцірныя ці гладкія палосы, ромбы, крыжыкі, квадраты,

скампанаваныя ў розных камбінацыях; вышыўкі — геаметрычны і раслінны (падлікоцая гладзь, крыжык). Узоры, выкананыя чырвонымі, чорнымі, радзей белымі ніткамі, кампанаваліся ў палосы (удоўж ці папярок рукава) або ў ячэйкі, утвораныя дыяганальнымі палосамі. Аздабленне шчыльна, як у дыванах, засцілала бачную паверхню рукавоў, плечавыя ўстаўкі, шляхам праходзіла па падоле, ланцужком па каўняры, каўнерцах, швах злучэння рукавоў са станам. Панёва ўяўляла сабой 2 сшытыя



прыкладна на $^2/_3$ даўжыні полкі тоўстай баваўнянай клятчатай тканіны пераважна цёмна-вохрыстага, чырвона-карычневага колераў. Фартух шылі з прамавугольнай полкі чорнага валенага сукна (у комплексе з панёвай) або полкі ўзорыстай крамнай тканіны. Гарсэт — з чорнага саціну з дэкаратыўным хлясцікам і складкамі на басцы спінкі. Пояс (каля 25 см шыр.) выплецены з цёмна-вішнёвых суканых шарсцяных нітак з мноствам кутасікаў. Запінку з белага палатна, падобную на фартух або туніку, апраналі паверх кашулі замест гарсэта. Аздаблялі ўзорыстым ткацтвам, вышыўкай, карункамі. Надзвычай багатыя шыйныя, нагрудныя і насцінныя ўпрыгожанні — пацеркі, шыйныя паяскі са штучнага бісеру, стужкі рознай шырыні, даўжыні і колеру; вялікае пашырэнне мелі самаробныя завушніцы. Мужчынскае адзенне мала адрознівалася ад адзення інш. рэгіёнаў. Вопраткай былі армяк, бурнос, кажух і інш. *М. Ф. Раманюк.*

**НЕ́ГЛЮБСКІЯ РУЧНІКІ́**, традыцыйныя тканыя ручнікі, якія вырабляюць ткачыхі в. Неглюбка і навакольных вёсак Веткаўскага р-на. Вядомы з сярэдзіны 19 ст. Ткуць з ільняных, баваўняных нітак, часам з дадаткам мулінэ, шоўку, ірысу, даўж. ручніка 350—500 см, шыр. 40—50 см, арнамент 80—140 см на кожным канцы (да 1950-х г. памеры ручнікоў былі значна меншымі). Пераважае геаметрычны і геаметрычна-раслінны арнамент (мясцовыя назвы «крывулі», «павукі», «кучараўкі», «казельчыкі», «лісты», «зорачка», «елкі» і інш.). Узор, змешчаны на канцах ручнікоў, складаецца з 5—9 шырокіх гарызан-



**Неглюбскія ручнікі.** Вёска Неглюбка Веткаўскага раёна.

тальных арнаментальных палос (2—4 розных узораў), далей шырокая іншага характару, потым сіметрычна паўтараюцца першыя. Сярэдзіна ручніка запаўняецца рытмічна размешчанымі вузкімі каляровымі палоскамі. Канец з трох бакоў абшываюць кароценькімі ў колер закладак мохрыкамі, часам аздабляюць вязанымі карункамі. Пераважаюць чырвоны, чорны і белы колеры (у апошні час трапляюцца зялёны, сіні, жоўты і інш.). У 1977 у в. Неглюбка створаны ткацкі цэх Гомельскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. *М. П. Жабінская, Дз. С. Трызна.*

**НЕМЦАЎ** Алесь Гаўрылавіч (29.8.1898, Гомель — сакавік 1938), беларускі краязнавец. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Яраслаўлі (1917), хіміка-біялагічны факультэт Маскоўскага пед. ін-та (1933). Працаваў у Асіповіцкай чыгуначнай школе (1917—38). Карэспандэнт Цэнтр. бюро краязнаўства



(з 1929). Вывучаў этнаграфію і фальклор Асіповіцкага р-на. У час. «Наш край» змясціў артыкулы: «Вяселле: Запісана ў в. Смык-Слабада Зборскага сельсавета і в. Заручэўе Дзераўцоўскага сельсавета ў студзені-лютым 1927 г.— Асіповіцкага раёна» (1927, № 4), «Спосабы лову жывёл і птушак у Асіповіцкім раёне» (1927, № 5), «Замоскі сельсавет Асіповіцкага раёна Бабруйскай акругі» (1927, № 6—7), «Гута «Камінтэрн»: Месцазнаходжанне і кароткая гісторыя» (1929, № 10), у час. «Савецкая краіна» — арт. «Скарыстаем мясцовую сыравіну (Асіповіцкі раён)» (1932, № 9) і інш.





**Нерат** у форме паўконуса.

**Нерат** у форме конуса.

*Тв.:* Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне//Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мн., 1928. Вып. 2. *В. І. Скідан.*

**НЕРАТ**, традыцыйная рыбалоўная прылада; стаўная пастка ў выглядзе сеткавай камеры, нацягнутай на драўляны каркас, падобны да аднагорлавага *буча*. Былі пашыраны Н. двух тыпаў: у форме поўнага конуса (Палессе) і паўконуса (Паазер'е). Рыба ў Н. пранікала праз горла, якое перашкаджала ёй выходзіць назад («Папаўся, што ў нерат,— ні ўзад, ні ўперад»,— гаворыць нар. прымаўка). З дапамогай тоўстага кала, які мацавалі да каркаса, Н. устанаўлівалі ў вадаёмах асобна ці разам з *езамі*. *І. М. Браім.*

**НЕЎРЫ** (грэч. Neurói), **н а в а р ы**, старажытныя плямёны, якія ў 6—5 ст. да н. э., паводле грэч. гісторыка Герадота і рымскага гісторыка Пталамея, жылі ў верхнім цячэнні Днястра, Паўд. Буга і басейна Прыпяці. На думку П. Шафарыка, Л. Нідэрле і інш. гісторыкаў, Н. былі продкамі славян.

**НЁМАНСКАЯ КУЛЬТЎРА**, археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў 4—3-м тысячагоддзях да н. э. насялялі тэр. Зах. Беларусі, Пн Валыні, паўд.-зах. Літвы і суседнюю тэр. Польшчы. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, потым прымітыўным земляробствам і жывёлагадоўляй, здабывала крэмень шахтавым спосабам. Паселішчы размяшчаліся на прырэчных схілах поймавых выспаў, на краях тэрас каля старыц і прывусцевых мысах. Яны складаліся з некалькіх наземных, найчасцей чатырохвугольных жытлаў, зробленых з жэрдак і невялікіх вертыкальна замацаваных у зямлі слупоў. Унутры жытлаў, звычайна ў невялікіх паглыбленнях, размяшчаліся адкрытыя агнішчы, якія пазней абкладвалі па краях камянямі. На раннім этапе Н. к. плямёны выраблялі вастрадонныя гаршкі з выпуклым, часам рабрыстым корпусам і злёгку зведзенымі або адагнутымі венчыкамі, пад краем наносілі глыбокія круглыя ямкі. Арнамент у выглядзе гарызантальных паясоў з грабеньчатых адбіткаў, насечак і наколак, некаторыя пасудзіны аздаблялі наразнымі лініямі, размешчанымі коса або ў сеткавых кампазіцыях. На познім этапе Н. к. пашырыліся вастрадонныя гаршкі са звужанай шыйкай і лейкападобнымі венчыкамі, краі якіх упрыгожвалі глыбокімі наколкамі ці ямкамі. Сярод арнаментальных элементаў — адбіткі лінейнага штампа, адступаючыя наколы, пракрэсленыя, зернепадобныя, ялінкападобныя і інш. узоры. Вядомы падвескі з іклаў сабакі, мядзведзя, зубоў аленя, унікальны сэрцападобны амулет з ласінага рога, выявы качкі, ромбападобнай чалавекападобнай істоты на сценках глінянага посуду. Арнамент часам канцэнтраваўся ў верхняй частцы пасудзін, дапаўняўся шматвугольнікамі, ромбамі, шнуравымі адбіткамі. У арнаментах Н. к. шукаюць вытокі бел. гарызантальна-паясных геаметрычных арнаментаў. *М. М. Чарняўскі.*

**НІКІФАРОЎСКІ** Мікалай Якаўлевіч [5(17).5.1845, в. Вымна Віцебскага р-на — 28.5(10.6).1910], беларускі этнограф і фалькларыст. Правадзейны чл. Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі Маскоўскага ун-та (з 1890), Рус. геагр. т-ва (з 1897). Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1867). Працаваў настаўнікам нар. вучылішчаў і гімназіі ў Віцебску і Віцебскай губ., у Свіслацкай і Маладзечанскай семінарыях. З 1860-х г. вывучаў побыт і культуру Беларусі. Больш за 20 гадоў быў карэспандэнтам П. В. Шэйна, з 1890-х г. выступаў з самастойнымі працамі. Апублікаваў каля 20 даследаванняў па этнаграфіі, фальклору і гісторыі Віцебшчыны. Яны — каштоўная крыніца для вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, іх вуснапаэтычнай творчасці. Грамадскаму побыту і сацыяльна-эканам. становішчу розных слаёў і груп сельскага насельніцтва Віцебшчыны прысвяціў серыю публікацый у час. «Этнографическое обозрение» пад агульнай назвай «Нарысы Віцебскай Беларусі» (ч. 1—8, 1892—99): «Старцы», «Дудар і музыка», «Пасобнікі жыхара», «Падданыя пасобнікі», «Пітучыя і прапойцы», «Гульні і гулячыя», «Бабы, або жонкі», «Збягі, прочкі, вонкі, ухадалы». Пытанні грамадскага побыту насельніцтва закранаў у працы «Старонкі з нядаўняй старыны горада Віцебска» (1899). Аўтар першай спецыяльнай працы па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці сельскага насельніцтва «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку (Этнаграфічныя звесткі)» (1895). У 1-м раздзеле кнігі «Ежа, едзіва, паядуха, прорва, жратва, момна» даў грунтоўную характарыстыку харчавання і класіфікацыю страў, іх прыгатаванне (112 страў), гатункаў хлеба (градавы, пушны, паловы, бульбяны, з раслін); паказаў змены ў нар. кулінарыі ў перыяд капіталізму. 2-і раздзел прысвечаны разгляду адзення і абутку, іх асобных частак, крою, матэрыялаў, спосабаў нашэння ўпрыгожанняў і інш. Апісаў працоўныя працэсы ад апрацоўкі лёну да пашыву адзення. У 3-м раздзеле даў грунтоўнае апісанне сельскіх пасяленняў, сядзіб, жылля і гаспадарчых пабудоў, іх будаўніцтва і прызначэння, інтэр'ераў жылых памяшканняў, жыццёвых працэсаў і бытавых абставін. У апошнім раздзеле даў характарыстыку земляробства, промыслаў і рамёстваў, прылад працы, прадметаў хатняга ўжытку і інш. Сярод фальклорных прац: зборнікі «Беларускія песні-частушкі» (1911, 2356 частушак), «Простанародныя загадкі» (1898), «Напаўпрыказкі і напаўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі» (1910—13), «Напаўпрыказкі — напаўпрыслаўкі» (1928). Вераванням, забабонам, абрадам, паданням прысвечаны капітальныя працы Н. «Простанародныя прыметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і месцы» (1897, 2307 запісаў), «Нячысцікі: Збор простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу» (1907).



М. Я. Нікіфароўскі.

*Літ.:* К а р с к и й Е. Ф. Белорусы. Т. 1. Вильна, 1904;, С т у к а л и ч В. К. Н. Я. Никифоровский. 1845—1910 годы. Вильна, 1910; Б о н д а р ч и к В. К., Ч и г р и н о в И. Г. Н. Я. Никифоровский Мн., 1960; Б а н д а р ч ы к В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. *В. К. Бандарчык.*

**НІКОЛЬСКІ** Мікалай Міхайлавіч [1 (13).11.1877, Масква — 19.11.1959], беларускі савецкі гісторык. Акадэмік АН БССР (1931), чл.-кар. АН СССР (1946), д-р гіст. н. (1934). Засл. дзеяч навукі БССР (1938). Чл. КПСС з 1946. Скончыў Маскоўскі ун-т (1900). З 1918 прафесар Смаленскага ун-та, з 1922— БДУ. З 1931 у Ін-це гісторыі АН БССР, заг. сектара этнаграфіі і фальклору, у 1937—53 дырэктар. Асноўныя працы па гісторыі рэлігіі і царквы, гісторыі Стараж. Усходу. Вывучаў стараж. вераванні і абрады беларусаў («Міфалогія і абраднасць валачобных песень», 1931, «Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваннях беларускага сялянства», 1933, «Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці», 1956), Дэп. Вярх. Савета БССР у 1947—59. У Мінску на доме, дзе ён жыў, мемарыяльная дошка.

*Тв.:* Дохристианские верования и культы днепровских славян. [М., 1929]; Частное

землевладение и землепользование в древнем Двуречье. Мн., 1948; Этюды по истории финикийских общинных и земледельческих культов. Мн., 1948; Культура древней Вавилонии. Мн., 1959; История русской церкви. 3 изд. М., 1983.

*Літ.:* Ботвинник М. Н. М. Никольский. Мн., 1967. *В. К. Бандарчык.*

**НІТЫ́**, прыстасаванне ў *кроснах* для прапускання асновы ў адпаведнасці з узорам і ўтварэння зева для ўточнай ніткі; ніцяныя петлі (кабылкі), размешчаныя на 2 гарызантальных пруточках. Былі рухомымі і зверху мацаваліся на *кацёлках*, а знізу злучаліся з *панажамі*. Даўжыня Н. адпавядала шырыні асновы, вышыня раўнялася 24—25 см. Вядомы дзве разнавіднасці Н.: без вочак і з вочкамі. Найбольш старажытны, пашыраны ва ўсіх усх. славян — ніт без вочак, які выраблялі на спецыяльнай дошцы (шырынёй 12—13 см і даўжынёй 65—70 см). Зверху па даўжыні рабра дошкі прапускалі тоўстую нітку-жывіцу, на якой мацаваліся ў выглядзе пецель суканыя ніткі. Пасля таго, як дошка запаўнялася петлямі, іх ссоўвалі і зверху прадзявалі пруток, а на дошку накідалі новыя, захопліваючы петлі першага рада. У выніку атрымліваўся ніт з двух радоў пецель, злучаных у цэнтры (у час накідання асновы ў Н. на пальцы левай рукі накручвалі ніткі з верхняга і ніжняга радоў, утвараючы вочкі, куды прапускалася аснова). Н. з вочкамі, больш зручныя пры накіданні асновы, рабілі на спецыяльным станочку (драўляны брусок даўжынёй 25—27 см з 4 цвічкамі). Спачатку нітку мацавалі на першым крайнім цвічку, затым на сярэдніх і другім крайнім цвічку (Н. такім спосабам рабілі на Пн і ПнЗ Беларусі). У зах. раёнах Н. ніцілі на спецыяльным станочку — варотцах — 3 злучаныя пруточкі, гарызантальна ўмацаваныя на падстаўцы. Для ткання на кроснах неабходна было не менш двух Н., таму ў залежнасці ад колькасці Н. атрымлівалі двух-, трох-, чатырох- і шматнітовыя тканіны. *Г. М. Курыловіч.*

**НО́ВЫ ГОД**, свята, прысвечанае пачатку каляндарнага года. Суправаджаецца рознымі абрадамі. Абрадавыя формы, змест і сутнасць Н. г. абумоўлены дзеючым календаром, сезоннымі ўмовамі, характарам гаспадарчай дзейнасці і вытворчых адносін, узроўнем культуры.

У даўні час каляндарны год на Беларусі пачынаўся вясною, навагодняе свята адзначалі ў пачатку веснавых палявых работ. Асноўнымі абрадавымі асобамі веснавога навагодняга свята былі *валачобнікі*, якія збіраліся ў гурт і абыходзілі ўсе сялянскія двары. Валачобнай песняй велічалі, услаўлялі кожнага гаспадара, яго працу, яе плён, усхвалялі земляробства, жывёлагадоўлю і інш. Велічалі таксама гаспадыню, дарослую дачку, нежанатага сына. Гаспадары дзякавалі валачобнікам, давалі ім абрадавы падарунак (яйкі, сыр, каўбасы). У познім сярэднявеччы з пераносам каляндарнага года на зіму сфарміравалася зімовае навагодняе свята. Асноўнымі абрадавымі асобамі сталі калядннікі. Яны пераапраналіся, надзявалі маскі *«казы»*, *«кабылы»*, *«мядзведзя»*, *«жураўля»*, «бусла» і інш., абыходзілі хаты і выконвалі велічальныя калядныя песні (гл. *Каляды*, *Калядаванне*). На Пд Палесся напярэдадні Н. г. спраўлялі абрад шчадравання. Дзяўчаты хадзілі па вёсцы і спявалі пад вокнамі хат шчадроўскія песні, якімі віталі гаспадара, яго сям'ю, жадалі шчасця, добрага ўраджаю. Раніцай Н. г. спраўлялі абрад засявання. Яго выконвалі дзеці. Яны хадзілі з торбай, напоўненай зернем, па вёсцы, заходзілі ў хаты, віталі гаспадароў і імітавалі сяўбу: пасыпалі падлогу зернем жыта, аўса, ячменю. Рабілі гэта моўчкі або суправаджалі сімвалічнае дзеянне кароткай песняй, у якой жадалі гаспадарам ураджаю, дабрабыту ў новым годзе. Выканаўцам давалі святочныя падарункі. Састаўной часткай зімовага навагодняга свята была ўрачыстая абрадавая вячэра, якую наладжвала кожная сям'я напярэдадні Н. г. Абавязковай абрадавай стравай была *куцця*, таму і сама вячэра называлася куцця. Яе называлі таксама багатай, шчодрай, мясной, тоўстай куццёй. На навагоднюю вячэру гаспадары імкнуліся нагатаваць як мага больш і самых лепшых страў, што сімвалізавала багацце, дастатак, дабрабыт.

Напярэдадні Н. г. была пашырана *варажба*. Варажылі пераважна дзяўчаты. Знаёмству дзяўчат з хлопцамі садзейнічалі *ігрышчы*, што адбываліся ў пачатку Н. г. На Пн Беларусі характэрнай навагодняй гульнёй была *«Жаніцьба Цярэшкі»*, на захадзе — *«Яшчур»*. Усе гэтыя зімовыя навагоднія звычаі і абрады найбольш характэрны для бел. этнасу на феадальнай стадыі развіцця. Пры ўсёй разнастайнасці іх форм сэнс быў аднолькавы: прадугадаць будучае ў наступным годзе і шляхам магічных дзеянняў забяспечыць дабрабыт і шчасце для сям'і. У капіталістычную эпоху на Беларусі, перш за ўсё ў гарадах, распаўсюдзіўся звычай ставіць навагоднюю ёлку. Спачатку яе надзялялі звышнатуральнымі ўласцівасцямі, пакланяліся ёй. Упрыгожванне ёлкі было абрадам ахвярапрынашэння, уміласціўлення. Гэтым абрадам імкнуліся ўлагодзіць, задобрыць дрэва, яго жыццёвую сілу, якая нібыта магла садзейнічаць чалавеку, урадлівасці поля, дабрабыту сям'і. Паступова рэлігійны сэнс абрадаў пачаў знікаць. Зялёная ўпрыгожаная ёлка стала сімвалізаваць жыццё, здароўе, шчасце. Важнае значэнне набылі эстэтычныя рысы святочнага навагодняга дрэва, якое выклікае радасць, добрыя надзеі. Упрыгожаная ёлка паступова ператварылася ў галоўны сімвал Н. г. Адбыліся некаторыя змены і ў саставе навагодніх масак-персанажаў: з'явіліся Дзед Мароз, Снягурачка. Новыя элементы навагодняга свята ў гэты перыяд былі характэрны толькі для побыту багатых. Яны яшчэ не распаўсюдзіліся сярод большай часткі бел. этнасу, у прыватнасці сялян, рамеснікаў, рабочых.

Значныя змены ў комплексе навагодніх абрадаў і звычаяў адбыліся ў наш час. Большасць з іх страціла свой магічны сэнс і ператварылася ў гульню, забаву. Н. г. стаў самым папулярным нар. святам. Напярэдадні яго арганізоўваюцца пераднавагоднія гандлёвыя кірмашы, ёлачныя базары, ілюмінуюцца гарады і многія вёскі. Упрыгожаныя навагоднія ёлкі ўстанаўліваюцца ў кватэрах гараджан і хатах сялян, на плошчах, у культурнаасветных установах. У палацах, Дамах культуры, клубах, школах праводзяцца навагоднія балі, маскарады, у якіх удзельнічае гал. чынам моладзь, у школах — дзеці, у канцэртных залах, тэатрах і цырках — навагоднія канцэрты і паказы. На плошчах і вуліцах арганізоўваюцца нар. гулянні і тэатралізаваныя прадстаўленні з удзелам казачных персанажаў і літаратурных герояў (Дзед Мароз, Снягурачка, Стары год, Новы год і інш.). Робяцца спробы ўзнавіць навагоднія шчадроўкі. Н. г. стаў любімым і жаданым святам для дзяцей. Вакол ёлкі дзеці водзяць карагоды, спяваюць песні, тут яны атрымліваюць навагоднія падарункі. Абавязковы элемент навагодняй урачыстасці — звычай віншаваць родных, сяброў, знаёмых, калег па працы з навагоднім святам, рабіць падарункі. Перад пачаткам Н. г. па радыё і тэлебачанні перадаецца навагодняе віншаванне Камуністычнай партыі і Сав. ўрада ўсім грамадзянам краіны. Бой Крамлёўскіх курантаў абвяшчае аб наступленні Н. г. Накрываюцца святочныя сталы, запрашаюцца госці. Навагоднія застоллі суправаджаюцца абменам падарункамі, песнямі, танцамі, праглядам тэлепраграм. Вяселле звычайна працягваецца да раніцы. Многія выходзяць гуляць на вуліцы і двары. У першы дзень Н. г. ў гарадах і вёсках арганізоўваюць культурна-масавыя мерапрыемствы. Для дзяцей навагоднія мерапрыемствы праходзяць і ў наступныя дні. *М. Ф. Піліпенка.*

**НО́ЧВЫ**, карытападобная пасудзіна з шырокім адкрытым верхам; тое, што і *начоўкі*.

**«НО́ЧКА»**, гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^{4}/_{4}$. Тэмп умераны. На Беларусі з'явіўся ў канцы 19 — пач. 20 ст. спачатку ў гарадскім, потым у вясковым асяроддзі. Асноўны блок рухаў (можа паўтарацца некалькі разоў запар) уключае простыя з двайным мяккім прытупам крокі па крузе, пераскокі з нагі на нагу (у 4-й нявываратнай — паралельнай — пазіцыі) у пераменным рытме, пры-

стаўныя бакавыя крокі, павароты выканаўцаў вакол сябе. Часам паміж двума блокамі рухаў танцоры выконвалі вальс у парах па крузе. Часта «Н.» суправаджалася прыпеўкамі з тыповым зачынам:

Ночка цёмна, я баюся.
Правадзі мяне, Маруся.

Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ беларускай танцавальнай творчасці МІК у Брэсцкай, Гродзенскай і Віцебскай абласцях. *А. Л. Варламаў.*

**НЯБО́ГА**, дачка брата або сястры, пляменніца.

**НЯБО́Ж**, сын брата або сястры, пляменнік.

**НЯВЕ́СТА**, дзяўчына або жанчына, якая выходзіць замуж; маладая; маладая дзяўчына або жанчына, якая мае жаніха; маладая дзяўчына, якая дасягнула шлюбнага ўзросту.

**НЯВЕ́СТКА**, жонка сына ў адносінах да яго бацькі.

**НЯРО́ДНЫ СЫН**, сын ад папярэдняй жонкі ў адносінах да *мачахі* ці сын ад папярэдняга мужа ў адносінах да *айчыма*; тое, што і *пасынак*.



Нярэжка.

**НЯРЭ́ЖКА**, традыцыйная рыбалоўная снасць. Невялікі сеткавы мяшок з тонкіх ільняных нітак, прымацаваны да двух калкоў, убітых у дно вадаёма, якія трымалі Н. адкрытай. Рыба, што заплывала ў мяшок, імкнучыся прайсці праз вочка сеткі, вырывала калкі: яны ўсплывалі на паверхню і закрывалі мяшок. Ставілі Н. на нерасцілішчах (па некалькі штук падрад). Пашыраны былі на Палессі. *І. М. Браім.*

**НЯСВІ́ЖСКІЯ ПАЯСЫ́**, вырабы ручнога шаўкаткацтва ў 18 ст. У пач. 1740-х г. уладальнік Нясвіжскай ардынацыі (непадзельная і неадчужальная ўласнасць магнацкіх родаў) М. К. Радзівіл у Альбе пад Нясвіжам заснаваў мануфактуру па вырабу шаўковых паясоў *(персіярню)*. Кіравалі вытворчасцю майстры Хаецкі і Гадоўскі, з 1757 — Я. Маджарскі. Н. п. ткаліся з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак, мелі даўжыню 2—4,5 м, шырыню 20—40 см. Некаторыя паясы цалкам затыкаліся залатымі ніткамі і потым пракатваліся паміж цяжкімі валамі, набываючы выгляд металічных, што дало ім назву «літых». Дэкор складаўся з папярочных гладкіх ці ўзорыстых палос, якія ўключалі пераважна ўсх. матывы. Н. п. не мелі спецыяльных метак, былі вельмі падобныя на *слуцкія паясы*, таму іх часта адносяць да апошніх. У пач. 1760-х г. Нясвіжская персіярня пераведзена ў Слуцк. *Я. М. Сахута.*

**НЯЧЫ́СЦІКІ**, у даўніх вераваннях беларусаў абагульненая назва ўсёй «нячыстай сілы», чарцей, злыдняў і інш. злых істот нар. дэманалогіі.



**О́ЗНІЦА**, сушня для соладу; гл. ў арт. *Саладзільня.*

**«ОЙРА»**, гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. На Беларусі з'явіўся ў канцы 19 — пач. 20 ст. спачатку ў гарадах, потым у вёсках, дзе зазнаў прыкметны ўплыў нар. харэаграфіі. Выконвае любая колькасць пар, асноўны малюнак — круг. Танец складаецца з блока рухаў, якія паўтараецца некалькі разоў запар: пляскание ў далоні, простыя крокі, сінхроннае выцягванне нагі на «насок-абцас», заглядание ў твар адзін аднаму. У Гродзенскай вобл. сустракаецца варыянт «О.», дзе дзяўчаты, выконваючы асноўны блок рухаў, прыпадаюць яшчэ на адно калена перад хлопцамі і, трымаючы сагнутыя ў локцях рукі перад сабой, кулаком правай рукі стукаюць аб кулак левай. У некаторых раёнах Гомельскай вобл. сустракаецца імправізаваны варыянт танца: танцуе адзін хлопец, які ў час танца высока падскоквае. Часта выканаўцы танца падахвочвалі сябе воклікам «ой-ра» (адсюль і назва танца). Суправаджаецца прыпеўкамі; напр.:

Што за танец ойра, ойра!
Да чаго ж ты стройна, стройна...

Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК па ўсёй Беларусі, музыка — у Браслаўскім р-не Віцебскай вобласці. *Г. К. Каляда.*

# П

**ПААЗЕ́Р'Е**, Падзвінне, гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, які займае большую частку Віцебскай вобл. На ПдУ па дняпроўска-дзвінскім водападзеле мяжуе з *Падняпроўем*, па Пд і ПдЗ па ўмоўнай лініі на Пн ад Барысава і Лагойска праз Паставы — з *Цэнтральнай Беларуссю* і *Панямонnем* (карту гл. ў арт. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён*). Як гісторыка-этнагр. рэгіён адпавядае асноўнаму масіву старажытнай Полацкай зямлі (полацкіх крывічоў). У складзе Кіеўскай Русі Полацкая зямля была найбольш самастойнай правінцыяй з уласцівымі ёй вечавымі традыцыямі грамадска-палітычнага ладу і арыгінальнай культурай. Ужо ў 11 ст. тут былі вядомы каля 10 буйных для таго часу ўдзельна-валасных і эканам. цэнтраў (Полацк, Віцебск, Друцк, Лукомль, Браслаў і інш.). Валодаючы ключавымі пазіцыямі на шляху «з варагаў у грэкі», Полацкае княства адыгрывала важную ролю ў міжнар. гандлі і культурна-эканам. сувязях. У 2-й пал. 13—14 ст. ва ўмовах паліт. раздробленасці Русі, пагрозы агрэсіі з боку татара-манголаў і Лівонскага ордэна Полацкае княства ўвайшло ў склад Вял. кн. Літоўскага, дзе захоўвала пэўную аўтаномію.

Для П. разам з часткай Падняпроўя на працягу сярэдневякоўя і да 2-й пал. 19 ст. захавалася этнагр. назва *Белая Русь*, якая паступова была пашырана на ўсю сучасную тэр. Беларусі. З утварэннем Рэчы Паспалітай (1569) узмацнілася экспансія каталіцтва і паланізацыя краю. Павялічыліся землеўладанні езуітаў, паўн.-ўсх. ўзмежжа з Рускай дзяржавай засялялася польскімі асаднікамі. Сюды, ратуючыся ад рэлігійных ганенняў і сацыяльнага ўціску, перасялялася частка рускіх *старавераў*. У выніку Лівонскай (1558—83), руска-польскай (1654—67), Паўночнай (1700—1721) войнаў мясцовая эканоміка і культура панеслі вялікія страты, адбыліся істотныя змены ў геагр. размяшчэнні і этнасацыяльнай структуры насельніцтва, якое скарацілася ў некалькі разоў. У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай (1772 і 1793) П. было далучана да Расіі і ўваходзіла ў склад Полацкай, з 1796 — Беларускай, з 1802 — Віцебскай губ.; зах. частка ўваходзіла ў Віленскую губ. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўтварэння

Беларускай ССР, усх. П. з 1924 у складзе БССР; зах. (левабярэжная) частка П. ўз'яднана з БССР у 1939.

Традыцыйна-бытавая культура складвалася на працягу многіх стагоддзяў, адлюстроўваючы як агульнабел. рысы, так і спецыфіку мясцовых гіст. і экалагічных умоў. Стракатыя і разнастайныя ландшафты: лес з густым шкодавагадным падлескам і паляўнічай фаунай, шматлікія азёры і рэкі, багатыя рыбай і вадаплаўнай дзічынай,— усё гэта служыла важным падспор'ем у эканам. жыцці. Глебы ў П. пераважна дзярнова-падзолістыя, завалуненыя і малаўрадлівыя. Вегетацыйны перыяд — 175—180 дзён — самы кароткі на Беларусі. Найбольш спрыяльнымі для земляробства былі ўмовы на Пд і ПдЗ рэгіёна. У структуры пасеваў побач са збожжавымі важнае месца займала культура льну. З канца 19 ст. сеялі бульбу і кармавыя травы, якія садзейнічалі ўзнаўленню ўрадлівасці глеб, спустошаных шматгадовымі пасевамі льну. Народная вытворчая практыка выпрацавала свой гадавы каляндар, своеасаблівыя спосабы і прыёмы апрацоўкі глебы, догляду пасеваў, уборкі ўраджаю і інш. з улікам мясцовых экалагічных умоў. Палі апрацоўвалі з дапамогай мясцовага варыянта сахі з перакладной паліцай, архаічнай бараны-сукаваткі (смыка); на суглiністых глебах ужывалі круглую калоду з зубамі, матыку і чакуху для здраблення камякоў. Выбраны на палях лён вымочвалі на дне вадаёмаў, а затым апрацоўвалі на тыповых для П. 2-рэбравых нахільных мялках. Сакавітыя лугі і выпасы спрыялі развіццю жывёлагадоўлі. Асноўнай і часцей за ўсё адзінай рабочай жывёлай у сялянскай гаспадарцы быў конь. З канца 19 ст. жывёлагадоўля мела выразны мяса-малочны кірунак (Дзісенскі пав. быў вядомым цэнтрам маслабойнай вытворчасці ў Віленскай губ.). З развіццём капіталістычных адносін значна пашырыліся лясныя і адыходныя промыслы — нарыхтоўка лесу, выраб брусоў, абадоў, бандарнай клёпкі і вываз іх у прыбалтыйскія порты. Мноства сялян ішло на будаўнічыя і земляныя работы; мясцовых каменячосаў (жарнаклёваў), муляраў, цесляроў нярэдка можна было сустрэць у адыходзе ў губернях Расіі.

Найбольш густа населеным здаўна было левабярэжжа Зах. Дзвіны. Пераважалі маладворныя сельскія паселенні (3—5 сядзіб), раскіданыя сярод лясных пагоркаў паблізу рэк і азёр. Мясцовыя жыхары звычайна сяліліся наводшыбе, у баку ад вялікіх дарог. Наяўнасць блізка ад вёсак і хутароў выгану і свабодных зямель, суседства з вадаёмам і лесам надавала пасяленням азёрнага краю патрыярхальна-экзатычныя рысы. Сельскія дарогі вызначаліся слабай набітасцю грунту і невыразнымі абрысамі. Невялічкія вёскі, хутары і асобныя двары звязвалі вузкія прасёлкі і сцяжынкі. Узімку ўзнікалі часовыя дарогі, т. зв. зімнікі,— скарочаныя маршруты па замерзлых рэках і азёрах. Найбольш пашыраны тып сядзібнай забудовы — вянковы. Побач з размяшчэннем пабудоў па перыметры двара сустракалася і кампактная забудова, калі гаспадарчыя памяшканні цесна прымыкалі да жылля, утвараючы адзіны жыллёва-бытавы комплекс з крытым дваром (вядомы толькі ў гэтым рэгіёне). На адлегласці 50—60 м у глыбіні сядзібы будавалі гумно і лазню. Гумно ў мясцовым вызначэнні — гэта комплекс гаспадарчых пабудоў з уласна гумном (ток, такаўня), сушылкай (асець, ёўня), пуняй для саломы і сена, азяродамі. На адкрытай мясцовасці нярэдка ставілі невялічкі млын-ветрак, што задавальваў патрэбы сялянскай гаспадаркі. Тыповая планіроўка жылля: хата + сенцы + стопка (варыўня). Зруб хаты рабілі з круглых бярвён хвоі ці елкі, звязаных паміж сабой у просты вугал «з астаткам» («у чашку»). Стрэхі звычайна 2-схільныя закотам, з 2-й пал. 19 ст.— каркасныя («на кроквах»); крылі іх саломай «пад колас», радзей — дранкай.

Для традыцыйнага адзення жыхароў уласцівы прамы, свабодны крой. Найбольш пашыраныя колеры адзення белы і светла-шэры. З верхняга адзення, апрача агульнабеларускіх світ і кажухоў, у шырокім ужытку быў палатняны насоў, які насілі ў любое надвор'е. Паясное жаночае адзенне вызначалася значнай тыпалагічнай разнастайнасцю: льняныя спадніцы, разнаколерныя набойкі, саяны, андаракі, узорныя дрылікі (гл. *Лепельскі строй*). Ва ўзорнай тэхніцы ўпрыгожвання пераважалі вышыўка і набойка, якія ў жаночым адзенні (сарочках, фартухах) гарманічна спалучаліся з карункамі і мярэжкай. У вышыўцы дамінаваў чырвоны колер, у набойцы — сіні ці блакітны (адсюль і мясцовая назва майстроў-набойшчыкаў — сіпельнікі). Аснову ўзорных матываў набойкі складалі стылізаваныя рамонкі, незабудкі, гарошак, суніцы і інш., што часам спалучаліся з геаметрычным арнаментам. Кераміка вызначалася масіўнасцю формы (да апошняга часу тут захаваўся налеп) і грунтоўнасцю апрацоўкі, што павышала яе функцыянальна-утылітарныя якасці (гл. ў арт. *Паўночнабеларуская і панямонская кераміка*).

Рэгіянальнай асаблівасцю вызначаючца мясцовая вуснапаэтычная творчасць і традыцыйная абраднасць. Побач з агульнабел. каляндарна-земляробчымі і сямейна-абрадавымі песнямі пашыраны тыя жанры, якія ў другіх рэгіёнах маюць абмежаваны арэал або зусім невядомы,— валачобныя, масленічныя, талочныя, ільнаробчыя, ярынныя песні. Для песеннага фальклору П. уласціва сольнае (манадыйнае) выкананне: мелодыя песень роўная, з плаўнымі пераходамі, напевы нетаропкія і свабодныя. Мясцовыя гаворкі П. складаюць групу паўн.-ўсх. дыялекту (гл. *Дыялектная мова*). *В. С. Цітоў.*

**«ПАВА»**, карагод. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Выканаўцы рухаліся па крузе і спявалі: «За павай паўлін ідзе,// Ён ідзе, ён ідзе// І так сабе гаворыць:// — Паўлінушка ты мая,// Ты мая, ты мая,// Пацалую я цябе». У цэнтры круга хадзілі дзяўчына і хлопец, якія ілюстравалі рухамі словы песні, а ў канцы — цалаваліся. Часам дзяўчына і хлопец ішлі адно за адным, а за імі гуртам усе астатнія ўдзельнікі карагода. Карагод «П.» зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гродзенскай вобласці. *Ю. М. Чурко.*

**ПАВЕ́ЦЬ**, п а в е т к а, гаспадарчая пабудова на сялянскім двары для захоўвання сельскагаспадарчых прылад (калёс, саней і інш. начыння), а таксама дроў. Уяўляе сабою пабудову на сохах, паўсошках (дзядках, чапёлках), крыжах, злучаных паміж сабою суцэльным бервяном (правілам), на якое навешваюцца кроквы. Паверх кроквак прымацоўваюцца латы пад пакрыццё. П. звычайна займала свабоднае месца паміж дзвюма пабудовамі — сенцамі і клеццю, клеццю і варыўнёй, клеццю і хлявамі і г. д. Прымыкала да іх і ўтварала разам з інш. пабудовамі адну агульную лінію забудовы. Калі П. выкарыстоўвалася толькі для захоўвання транспартных сродкаў, яе называлі *вазоўняй*, абозняй. П., дзе складаваліся дровы, называлася дрывотняй. Пашырана па ўсёй Беларусі. *У.С. Гуркоў.*

**ПАВО́ЙНІК**, даўні галаўны ўбор замужніх жанчын на Беларусі; тое, што і *намітка.*

**ПАВУ́К**, прасторавая кампазіцыя з саломы, папяровых кветак, зерняў лубіну, фасолі і інш.; традыцыйнае ўпрыгожанне інтэр'ера бел. нар. жылля. П. падвешвалі над сталом (лічылася, што ён прыносіць шчасце). Найбольшае пашырэнне мелі П. з саломы (шарападобныя, рамбічныя і зорчатыя). Шарападобныя рабілі з саломінак, якія разыходзіліся ва ўсе бакі ад цэнтра (напр., утыкаліся ў бульбіну). Канцы саломінак аздаблялі кветкамі з паперы ці пер'я, зоркамі з фольгі і інш. У аснове рамбічнага П. васьміграння фігура з 12 саломінак аднолькавай даўжыні. Унутры і да яго вуглоў падвешвалі П. меншых памераў (часта да некалькіх дзесяткаў), саламяныя ці папяровыя ланцужкі, кветкі з разнаколернай паперы і пер'я, абгорнутыя фольгай мяцёлкі аўса і інш. Зорчатыя П. мелі плоскую канструкцыю з саломінак у выглядзе шматпялёсткавай разеткі. Бывалі таксама П. накшталт абажура: да абруча з лазы ці дроту падвешвалі гірлянды з зярнят фасолі, гароху, лубіну, нанізаных на нітку. Арыгінальны П. пач. 20 ст. з гірляндаў кудзелі і кутасоў (в. Мінакі Карэліцкага р-на) захоўваецца ў Дзярж. музеі БССР. П. выйшлі з нар. ўжытку ў

сярэдзіне 1950-х г. У наш час вырабляюць сувенірныя П. *Я. М. Сахута.*

**ПАГО́СТ** [ад стараж.-рускага погостити — пабываць у гасцях; першапачатковае значэнне П.— пастаялы двор, дзе часова спыняліся князь і духоўныя асобы, а таксама купцы (госці)], цэнтр сельскай абшчыны з царквой і могілкамі, буйное паселішча. Былі пашыраны ў Рус. дзяржаве ў 11—18 ст. На Пд Беларусі існавалі да пач. 16 ст. (Пінскае княства), потым ператварыліся ў вёскі і мястэчкі.

**ПАГО́СТ-ЗАГАРО́ДСКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў з в. Пагост-Загародскі Пінскага р-на. Найбольшага росквіту промысел дасягнуў у канцы 19 — 1-й пал. 20 ст. Выраблялі чорнаглянцаваны посуд гаспадарчага прызначэння: глякі (буньні), збанкі, міскі, гладышы, макатры, гаршкі з вушкамі, формы, кубкі, фігурныя кветнікі. Вырабы вызначаюцца буйнымі лаканічнымі формамі, суцэльна глянцаванай паверхняй, коса зрэзанымі венчыкамі місак і макатроў. У пасляваенны час промысел заняпаў. Калекцыя П.-з. к. 1920—30-х г. зберагаецца ў Дзярж. музеі БССР. *Я. М. Сахута.*

**«ПАДАЛЯ́НАЧКА»,** карагод-гульня. Музычны памер $^2/_4$. У асобных рэгіёнах адзначана як дзіцячая гульня. Карагод могуць выконваць самі дзяўчаты або разам з хлопцамі. Удзельнікі бяруцца за рукі і становяцца ў круг, а адна дзяўчына — «падаляначка» — пасярод яго. Рухаючыся простым крокам наперад супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі, карагодніцы пяюць. «Падаляначка», прытанцоўваючы, рухаецца па крузе і абыгрывае ўсё тое, пра што гаворыцца ў песні. То яна прысядае, то да зямлі прыпадае, то ўстае, трэ кулакамі вочы, то імітуе расчэсванне валасоў. У завяршэнне харэаграфічнай імправізацыі некалькі разоў прысядае. Потым падыходзіць да адной з дзяўчат, бярэ яе за руку і выводзіць у сярэдзіну круга, а сама становіцца на яе месца. Карагод пачынаюць гуляць спачатку. Пашыраны ў паўднёвым раёне Гомельскай вобл. Зафіксаваны ў Ельскім р-не. *М. А. Козенка.*

**ПАДБЯРЭ́СКІ** (Друцкі-Падбярэскі) Рамуальд Андрэевіч [1812 (ці 1813), Вільнюс — 10(22).10.1856], беларускі і польскі выдавец, публіцыст, фалькларыст. Скончыў Віленскую гімназію (1830). Вучыўся ў Маскоўскім ун-це (1836—40). З 1840 актыўны ўдзельнік бел. гуртка ў Пецярбургу. Падтрымліваў сувязі з рус. славянафіламі, Т. Шаўчэнкам. З 1847 у Вільні. Сваёй грамадзянскай дзейнасцю памагаў гуртаваць культурныя сілы Беларусі. Выдаваў літаратурна-навуковыя альманахі «Rocznik literacki» («Літаратурны штогоднік», т. 1—4, Пецярбург; Вільня, 1843—49) і «Pamiętnik naukowo-literacki» [«Навукова-літаратурны дзённік», т. 1—2 (ч. 1—6), Вільня, 1849—50], у якіх публікаваў бел. аўтараў і матэрыялы, звязаныя з Беларуссю. У друку выступаў з допісамі пра культурныя падзеі, водгукамі на творы мастацтва, літаратурна-крытычнымі артыкуламі. У арт. «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (Баршчэўскі Я. Шляхціц Завальня... Т. 1. 1844) з дэмакратычных пазіцый характарызаваў бел. літаратуру 1-й пал. 19 ст., вызначаў яе народнасць. Аўтар фальклорна-этнагр. нарыса «Беларускае вяселле» (Иллюстрация. 1848. Т. 6, № 1), «Лістоў пра Беларусь» [Tygodnik Petersburgski (Пецярбургскі штотыднёвік). 1844. № 79, 81, 82]. Выдаў зб. Т. Лады-Заблоцкага «Паэзія» (1845), апублікаваў «Дыярыуш» С. Бельскага (Athenaeum. 1842. Т. 4). Вывучаў помнікі старажытнасці і гісторыі Беларусі. У 1850 за антыўрадавую літаратурную дзейнасць арыштаваны і высланы ў Архангельскую губ., дзе і памёр. *У. І. Мархель.*



Павук.



Пагост-загародская кераміка.

**ПАДВА́ЛІНА,** 1) падруба, ніжні вянец *зруба*. Раней П. клалі непасрэдна на зямлю або на штандары, потым — на камяні або на фундамент. П. заўсёды рабілі з больш моцнага дрэва (дуб, елка, хвоя). Звычайна яны былі і больш тоўстымі, чым інш. бярвёны зрубу. 2) Брус, на які насцілаецца падлога, памост.

**ПАДВІ́ЧКА,** галаўны ўбор замужніх жанчын накшталт кароны ў *ляхавіцкім строі*. Прадаўгаватым кавалкам (шырынёю 12—15 см, даўжынёю 50—60 см) сацiну, атласу, парчы — уласна П.— абгортвалі тканку з чапцом і замацоўвалі шпількамі і іголкамі. Для пруткасці ў П. устаўлялі кардон, паперу, накрухмаленае палатно. Выкарыстоўвалі пераважна тканіну чырвонага колеру з вертыкальнымі белымі палоскамі ці блакітнага колеру з раслінным узорам. Святочныя П. ўпрыгожвалі букетамі жывых кветак ці дэкаратыўнай зеляніны, якія ўтыкалі збоку ці па цэнтры П., а таксама тасёмкамі, пацеркамі і інш. У вясельным уборы паверх П. завівалі намітку, а на паты-

ліцы мацавалі пышны букет кветак. *М. Ф. Раманюк.*

**ПАДВО́ЙНАЕ ТКА́ЦТВА**, двухасноўнае ткацтва, тэхніка народнага ткацтва, якая дазваляла атрымліваць падвойныя дывановыя тканіны, а таксама тканіны палатнянага ці рыпсавага перапляцення падвойнай шырыні. Вядома ў многіх народаў. На Беларусі пашырылася ў 2-й пал. 19 ст. (пераважна ў зах. частцы). Найбольшую вядомасць набылі гродзенскія падвойныя дываны з сюжэтна-арнаментальным малюнкам. Для асновы, якую пракідвалі ў 4 ніты, і для ўтку бралі ніткі двух кантрастных колераў. У вырабе складанага ходу панажоў утвараліся 2 слаі асновы (2 зевы). Мяняючы разнаколерныя ніткі асновы верхняга і ніжняга слаёў дошчачкай-бральніцай, пракладвалі ўток і атрымлівалі кантрастны малюнак: карычневы на залацістым фоне, зялёны на чорным, фіялетавы на зялёным, чырвоны на сінім і г. д. У наш час падвойныя дываны ткуць толькі асобныя майстрыхі, змяніўся і знешні выгляд тканін: сюжэтныя кампазіцыі амаль адсутнічаюць, у дэкоры пераважае геаметрычны і раслінны арнамент.

Другі больш просты від П. т. выкарыстоўваюць для вырабу посцілак падвойнай шырыні. У наш час ужываецца ў нар. ткацтве Гродзенскай, Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абл. (разнаколерныя паласатыя посцілкі-радугі). Для асновы бяруць тоўстыя льняныя або баваўняныя ніткі, для ўтку — шарсцяную пражу хатняга ці фабрычнага вырабу (у апошні час — сінтэтычную пражу). Пры тканні карыстаюцца падзяляльнікам асновы (тонкі металічны пруток ці шнурок, які закладваюць у зеў паміж парамі нітоў). Пры парным ходзе панажоў утвараюцца адначасова 2 зевы — верхні і ніжні. У залежнасці ад ходу чаўнака атрымліваецца тканіна падвойнай шырыні (чаўнок прапускаецца праз верхні і ніжні зеў, а потым у адваротным напрамку) або мяшковую тканіну (чаўнок прапускаецца праз верхні і ніжні зеў, не мяняючы напрамку).

*М. М. Віннікава.*

**ПАДЗВІ́ННЕ**, гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі; гл. *Паазер'е.*

**ПАДЗО́Р**, 1) дошка з глухой, скразной або краявой разьбой, якая акаймовае навісь страхі або даху; элемент дэкору. Выкарыстоўваецца пераважна ў жыллі, некаторых гаспадарчых пабудовах, брамах і варотах. П. часцей за ўсё аздабляюць будынкі і збудаванні з чатырохсхільным дахам. Найбольш простыя П. — дошкі з краявой разьбой у выглядзе зубцоў або хвалі. Ажурная скразная разьба з выкарыстаннем арнаментальных геаметрычных і раслінных матываў характэрна для жыллёвага будаўніцтва на У і ПдУ Беларусі. 2) Брыжы (вузкая палоска тканіны, сабраная ў зборачкі), карункі, якімі абшываецца край прасціны, пакрывала і т. п.

**ПАДКО́ВА**, жалезная дугападобная пласціна, якая прыбіваецца пад конскія капыты для засцярогі іх ад пашкоджання, а таксама для таго, каб паабегчыць слізгаценне. П. прыбіваюць да капыта спецыяльнымі цвікамі — вухналямі, у зімовы час у яе ўкручваюцца тры шыпы.

**ПАДЛО́ГА**, ніжні насціл у хаце, памяшканні, па якім ходзяць. У нар. будаўніцтве вядома земляная, глінабітная і драўляная П. Найбольш стараж. і пашыранымі (амаль да 20 ст.) былі земляная і глінабітная П. Земляную П. рабілі з зямлі, якую насыпалі ў сярэдзіну зруба, добра ўтрамбоўвалі і зверху старанна загладжвалі. Глінабітную П. (ток, тачок) рабілі з утрамбаванай зямлі, якую залівалі зверху растворам гліны (на Зах. Палессі часам паліравалі сумессю гліны з рачным глеем) або насыпалі сырую гліну, якую ўтрамбоўвалі пранікамі. Паводле археалагічных дадзеных драўляная П. (мост, памост) вядома з 6 ст. (селішча Тайманава Быхаўскага р-на). Першапачаткова яе рабілі з дошак, якія клалі непасрэдна на зямлю. У будынках 12—13 ст. (у Брэсце, Мінску і інш.) П. была з колатых дошак, пакладзеных на папярочныя лагі (падмосце, шлігавіны, пляніцы), урубленыя ў сцены зруба. Пазней пад лагі сталі падкладваць камяні, драўляныя слупкі, потым — слупкі з цэглы. З канца 19 ст. ў сувязі з развіццём лесапільнай прамысловасці насціланне драўлянай П. значна пашырылася. Гэты тып П. стаў асноўным у большасці раёнаў Усх. Беларусі. Для П. выкарыстоўвалі габляваныя дошкі, больш дасканалымі сталі злучэнні іх паміж сабой (у чвэрць, у шпунт). У 18—19 ст. у сядзібнай архітэктуры была вядома фрызавая і шчытавая П., якая дазваляла рабіць з дошак нескладаны геаметрычны арнамент, што павышала мастацкія якасці інтэр'ера (сядзібныя дамы ў в. Агарэвічы Ганцавіцкага, в. Відзы Лаучынскія Браслаўскага р-наў). У палацах і замках (Нясвіж, Гродна) была пакладзена драўляная П. з паркету, які часам рабілі шматколерным. Для гэтага фарбавалі мясцовыя пароды драўніны, а таксама завозілі рэдкасныя пароды драўніны з-за мяжы. У сучасным будаўніцтве П. звычайна робіцца шматслойнай. Пры яе стварэнні шырока выкарыстоўваюць індустрыяльныя канструкцыі і матэрыялы: жалезабетонныя пліты перакрыццяў — аснова; дошкі, паркет, драўнінностружкавыя пліты, рулонныя матэрыялы (лінолеум, рэлін) — верхні слой. Драўляную П. звычайна фарбуюць.

Керамічная П., характэрная пераважна для мураваных будынкаў, на Беларусі з'явілася ў 11 ст. Яе выкладалі з паліваных керамічных плітак таўшчынёй 1,8—2,5 см рознай формы, часам са скошанымі краямі, якія замацоўвалі на вапнавым растворы. З плітак, пакрытых разнаколернай (карычневай, зялёнай, жоўтай, чорнай) палівай, выкладалі розныя арнаментальныя малюнкі (Сафійскі сабор, Спаса-Ефрасіннеўская царква і інш. полацкія храмы). Пліткі, знойдзеныя ў час раскопак Верхняга полацкага замка, пакрыты шэрай палівай з нанесенымі на яе каляровымі кружочкамі. У некаторых гродзенскіх храмах (Ніжняя, Прачысценская, Каложская цэрквы) выкарыстоўвалі маёлікавыя пліткі, якія мацавалі на вапнавым растворы з глінянай дамешкай. П. рабілі таксама з непаліваных плітак з рэльефным арнаментам. У 14—16 ст. П. ў мураваных будынках клалі толькі са спецыяльнай квадрат-



**Падваліна** клеці. Вёска Сушыцк Лунінецкага раёна.



**Падковы.**



Маладуха ў **надвічцы**. Вёска Астрэйкі Ляхавіцкага раёна.

най або прамавугольнай цэглы (Мураванкаўская царква ў Шчучынскім р-не). З 2-й пал. 16 да канца 18 ст. выкарыстоўвалі паліваныя ці непаліваныя керамічныя пліткі таўшчынёй 4—7 см (такімі фігурнымі пліткамі выкладзена П. ў Мірскім, Гальшанскім, Любчанскім замках, Барысаглебскай царкве ў Навагрудку). У 19 ст. керамічныя П. паступова знікаюць і адраджаюцца толькі ў канцы 19 — пач. 20 ст. У той час ужываліся разнастайныя пліткі накшталт метлахскіх, у т. л. замежнай вытворчасці. Шырока выкарыстоўваліся тэракотавыя або паліваныя пліткі, зробленыя на мясцовых (напрыклад, мінскіх) прадпрыемствах. *С. А. Сергачоў, А. А. Трусаў.*

**ПАДНЯПРОЎЕ**, гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, які займае Магілёўскую, часткі Віцебскай і Гомельскай абласцей. На Пн па водападзеле Дняпра і Зах. Дзвіны мяжуе з *Паазер'ем*, на З па левабярэжжы Бярэзіны і Дняпры — з *Цэнтральнай Беларуссю* і *Усходнім Палессем* (карту гл. ў арт. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён*). У стараж.-рускі перыяд (9—12 ст.) ішоў інтэнсіўны працэс сціраппя племянных этнакультурных адрозненняў, зліццё слав. плямён у адзіную народнасць. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічалі раўнінны рэльеф і днепроўская сістэма суднаходных рэк, якія адыгрывалі важную ролю ва ўнутраных і знешніх культурна-эканам. сувязях. Гіст. лёс П. быў звязаны са стараж. Кіевам і з гісторыяй іншых усх.-слав. зямель. Этнакультурны комплекс, фальклорныя традыцыі і нар. гаворкі П. маюць шмат агульных рыс з суседняй Смаленшчынай і Зах. Браншчынай (у 12 ст. значная частка П. ўваходзіла ў Смаленскае, пайд.— у Чарнігаўскае княствы). У той час у П. былі вядомы важныя адміністрацыйныя і эканам. цэнтры — Копысь, Орша, Друцк, Мсціслаў, Прапошаск (Слаўгарад), Крычаў, Лучын, Гомель, Рагачоў, Чачэрск і інш. У канцы 12 ст. са Смаленскага вылучылася Мсціслаўскае княства, якое да сярэдзіны 14 ст. ўвайшло ў склад Вял. кн. Літоўскага і захоўвала ў ім пэўную аўтаномію. На ранніх сярэдневяковых картах Еўропы (карты Н. Кузана — канец 15 — пач. 16 ст., С. Мюнстэрна — 1540) левабярэжная частка П. пазначана пад назвай *Белая Русь*. На больш позніх картах (Г. дэ Баплана, Я. Сандарта — 2-я пал. 17 ст., Т. Кітхіна — 1740, і інш.) Белая Русь лакалізавана ўжо ў верхнім П. і Паазер'і. Такое вызначэнне Белай Русі захавалася да сярэдзіны 19 ст., калі канчаткова было пашырана (з-за агульнасці гіст. лёсу і этнічнай культуры) на ўсю тэр. сучаснай Беларусі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) П. далучана да Расіі, на яго тэрыторыі была ўтворана Магілёўская губ., якая ў асноўным супадала з межамі рэгіёна. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўтварэння Беларускай ССР П. з 1924 у складзе БССР (б. Гомельскі і Рэчыцкі пав. далучаны ў 1926).

Сельскія пасяленні звычайна размяшчаліся па берагах невялікіх рэк і ў міжрэччах. На характар рассялення ўплывала суседства з воднымі шляхамі, урадлівасць мясцовых глеб. Найбольш густа населенай і аграрна развітай здаўна была левабярэжная частка П., у прыватнасці Аршанска-Магілёўская раўніна. Змешаныя хваёва-лістовыя лясы і дубровы, што пакрывалі гэтую тэрыторыю, у 18 — пач. 20 ст. на значных плошчах былі высечаны, і на іх месцы ўтварыліся масівы акультураных зямель. Адносна спрыяльныя глебава-кліматычныя ўмовы садзейнічалі шырокаму развіццю хлебаробства. З тэхнічных культур сеялі лён і каноплі. Агракультура П. мела рэгіянальныя рысы, што выяўлялася ў спосабах і прыёмах апрацоўкі глебы, мясцовых варыянтах земляробчых прылад (сох, ільнамялак, барон), формах феадальнай рэнты і інш. У лясных краях прыкметнай падмогай у гаспадарцы былі здабыўныя промыслы, у першую чаргу збіральніцтва, пчалярства і лесахімічныя промыслы. Частка насельніцтва ішла ў адыходныя промыслы ў суседнія губерні Расіі, дзе словы «буднік» і «беларусец» у звычайным ужыванні мясцовых жыхароў былі свайго роду сінонімамі. У Гомельскім пав. (пераважна ў сучасным Веткаўскім р-не) было шмат пасяленняў *стараверау*, якія сяліліся тут з 1685. Многія з іх займаліся рамізніцтвам, ваджэннем суднаў, будаўніцтвам, ткацтвам, пчалярствам, частка — гандлем і камерцыяй (бралі ў арэнду сады, скуплялі ў мясцовых сялян сушаныя грыбы, ягады, мёд, воск, гандлявалі лесам, хлебам, соллю). Сельскія пасяленні ў параўнанні з суседнім Паазер'ем вызначаліся большымі памерамі (15—30 сядзіб) і выразнай вулічнай планіроўкай. Замкнутыя ці Г-падобныя сядзібныя забудовы размяшчаліся абапал вуліцы, якая мела акрэсленую цэнтр. частку і канцы. Вуліца агароджвалася па баках і заканчвалася нярэдка з абодвух канцоў шырокімі варотамі, якія зачыняліся на ноч. З маладворных пасяленняў былі пашыраны *засценкі*. Пасля адмены прыгоннага права назіраўся міграцыйны рух насельніцтва на З у лясныя раёны Бярэзінскага басейна, дзе на месцы ляд узнікалі новыя пасяленні. Мігранты прыносілі з сабою вытворчы вопыт і этнакультурныя традыцыі, прыстасоўваючы іх да мясцовых умоў; ставілі дабротныя дамы і гаспадарчыя пабудовы, абносілі іх трывалым парканам з брамамі на вуліцу. Распаўсюджаныя тыпы планіроўкі традыцыйнага жылля: хата+сенцы+клець, хата+ +сенцы+хата, хата+трысцен. Апошні, выконваючы ролю сянец, нярэдка (калі ў ім ставілі печ) ператвараўся ў жылое памяшканне. Свіран (амбар, інбар) для зерня ставілі насупраць хаты. Хлявы (хлеў, пуня) прымыкалі да жылля праз павець ці размяшчаліся ў глыбіні двара. Сярод падсобных памяшканняў рэдка сустракаліся стопкі, замест



**Падняпроўе.** Вянковая (закрытая) сядзіба. Вёска Масток Магілёўскага павета. 1912.

іх у П. былі распаўсюджаны функцыянальна блізкія скляпы (пограбы). Прасторныя гумны са стрэхамі на сохах мелі сушню — звычайную ёўню ці двух'ярусную асець з ямнай печчу. Больш прыкметная кантынентальнасць клімату, наяўнасць сушняў пры гумнах, як і добрая вентыляванасць апошніх, рабілі непатрэбнымі азяроды, якія тут былі рэдкай з'явай. Для сушкі лёну часцей выкарыстоўвалі лазні, якія мелі падоўжную страху, што абапіралася з аднаго боку на 2 слупы, утвараючы навес. Канструкцыйнай асновай жыллёвых пабудоў быў зруб з круглых бярвён, звязаных у прosты вугал з астаткам, на штандарнай аснове. Стрэхі на лемягах (закотам) і стаяках (пазней — на кроквах) крылі саломай «пад колас», радзей — камлём уніз («пад грабёнку»). У раёнах, багатых лесам (Рагачоўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чэрыкаўскі пав.), былі пашыраны стрэхі, крытыя дошкамі, дорам, дранкай (шчапа). Некаторай своеасаблівасцю архі-

тэктурнага аблічча і арганізацыі інтэр'ера адрознівалася народнае жыллё на Пд рэгіёна. Маляўнічай дэкаратыўнасцю вызначацца *веткаўская разьба*, якой аздаблялі франтоны, ліштвы, карнізы, ганкі, брамы і весніцы.

Народнае адзенне П. ўвасобіла стараж. рысы, уласцівыя традыцыйнаму касцюму слав. народаў, зазнаўшы пэўны ўплыў усх. і еўрапейскіх строяў. Тыповае верхняе адзенне — злёгку прыталеныя кажухі і шыракаполыя світкі светла-шэрага колеру са стаячым каўняром без гузікаў (падвязваліся вакол таліі шарсцяным плеценым поясам), а таксама кафтан-армяк тыпу бурноса, укарочаная паўсвітка і кажушок (паўшубак). У традыцыйным жаночым адзенні яшчэ ў пач. 20 ст. бытавалі стараж. панёвы, узорныя андаракі, сшытыя з безрукаўкай-гарсэтам (ліф, кабат), і саяны, аналагічныя рускім сарафанам. Жаночыя кашулі шылі звычайна з плечавымі ўстаўкамі (поліками), нагрудную частку рабілі з больш тонкага кужэльнага палатна. Іх упрыгожвалі вышыўкай і тканым арнаментам чырвонага ці камбінаванага (чырвонага з чорным) колераў *(магілёўскі строй, краснапольскі строй)*, аздаблялі сакаленнем, маршчэннем *(буда-кашалёўскі строй)*. Самабытным узорна-дэкаратыўным стылем упрыгожвання вылучаецца адзенне паўднёвых раёнаў *(неглюбскі строй)*. У арнаменце святочнага адзення і тканін дамінавалі адносна буйныя геаметрызаваныя ўзоры, у Пасожжы часцей сустракаліся раслінныя матывы. Ва ўзорным ткацтве ўжывалася браная тэхніка, у вытворчасці андараковай тканіны пераважала 2-нітовае ткацтва. Своеасаблівымі прыёмамі аздаблення вылучаюцца традыцыйныя тканыя *неглюбскія ручнікі* і *буда-кашалёўскія ручнікі*.

Рэгіянальнай асаблівасцю вызначалася кераміка. Посуд быў лёгкі і грацыёзны. Яго рабілі пераважна з чырвонай гліны з тонкімі сценкамі і аздаблялі на гарлавінах ці плечыках хвалістымі паяскамі, што наносіліся завостраным прутком па сырой гліне (гл. *Падняпроўская кераміка*).

Лінгвістычная карта Беларусі адзначае дыялектныя асаблівасці гаворак П., якія вылучаны ва ўсходне-магілёўскую групу паўн.-усх. дыялекту (гл. *Дыялектная мова*). Нсаднароднасць культурных ландшафтаў дазваляе вылучыць у П. некалькі лакальных раёнаў (падраёнаў) — левабярэжжа і правабярэжжа Дняпра, Пасожжа і Бярэзінскі раён — з уласцівым кожнаму з іх комплексам мясцовых этнакультурных прыкмет. *В. С. Цітоў.*

**ПАДНЯПРО́ЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў Падняпроўя (Магілёўскай і сумежных раёнаў Віцебскай, Гомельскай і Мінскай абл.). У 2-й пал. 19 — пач 20 ст. ганчарны промысел быў пашыраны больш чым у 70 пераважна дробных цэнтрах рэгіёна. Выраблялі паліваную, чорназадымленую і гартаваную кераміку чырвонага або цёмна-шэрага колеру гаспадарчага, утылітарна-дэкаратыўнага і абрадавага прызначэння. У яе вытворчасці выкарыстоўвалі фармовачную масу з гліны аднаго гатунку, часам з дамешкам жарствы ці пяску. Посуд фармавалі ў тэхніцы выцягвання на нажным, зрэдку налепам на ручным (в. Новы і Стары Дзедзін) ганчарным крузе; абпальвалі ў горне. П. к. ўласцівы зграбныя формы мяккай мадэліроўкі, сціплы дэкор у выглядзе лінейна-хвалістага арнаменту з 2—3 палосак, прачэрчаных па сырой паверхні прадметаў. Вырабы пакрывалі бясколернай, радзей зялёнай, карычневай палівай, у некаторых ганчарных цэнтрах аздаблялі белай *ангобнай размалёўкай*. Традыцыі П. к. найбольш характэрны для бабінавіцкай, бабруйскай, благаўскай, дубровенскай, крычаўскай, магілёўскай і мсціслаўскай керамік (гл. адпаведныя артыкулы). *С. А. Мілючэнкаў.*

**ПАДРУ́БА**, ніжняе бервяно ў *зрубе*; гл. ў арт. *Падваліна*.

**ПАДСА́КА**, традыцыйная рыбалоўная прылада; невялікі сеткавы мяшок, прымацаваны да абруча, утворанага раздвоенай вершалінай маладога дрэўца. Называлі таксама сачок, чарпок, падхват. Адгалінаванні злучаліся сагнутым дугой прутам. Абруч рабілі таксама з тоўстага дроту, прымацоўвалі яго да палкі-ручкі. П. падобна на *сак*, але меншых памераў. Ёю вычэрпвалі рыбу з палонак у час прыдух, летам — з аазярын, а таксама вылоўлівалі з вады рыбу, атручаную або аглушаную ўдарам цяжкага прадмета па лёдзе. П. як дапаможнай прыладай карысталіся пры лоўлі невадамі і кручковымі снасцямі. Вядома і ў наш час. *І. М. Браім.*



Падсака.

Падсанкі.

**ПАДСА́НКІ**, тып санак, што выкарыстоўваліся пры перавозцы лесу ў пары з *санямі*. Карацейшыя за сані; рабілі іх звычайна з натуральна выгнутых палазоў на тры пары капылоў, злучаных паміж сабой гнуткімі дубовымі вязамі або брускамі. Сярэдняя пара капылоў была даўжэйшая і выступала канцамі паверх намаразняў (паклесак), на іх набівалі папярэчыну — тоўсты брусок (лісіцу), на якую прыпадаў цяжар грузу. Бярвёны грузілі на сані-*кары* камлёвай часткай, пад заднія капцы падводзілі П. Для павышэння манеўранасці ў час язды па лясных дарогах П. звязвалі з санямі накрыж вяроўкамі-цягамі — ад левай галоўкі да правага задняга капыла і ад правай галоўкі да левага задняга капыла саней. П. разам з карамі выкарыстоўвалі да сярэдзіны 20 ст. У наш час выйшлі з ужытку. *В. С. Цітоў.*

**ПАДСЕ́НІ**, адкрытая галерэя ў драўляных збудаваннях; тое, што і *паддашні*.

**ПАДСО́ЧКА**, 1) падрэзка кары хваёвых дрэў, пераважна сасны, для здабывання *жывіцы*. П.— сезонны промысел, вядзецца з вясны да восені. Падсочваюць спелыя дрэвы дыяметрам не менш 18 см за 10—15 гадоў да высечкі. У наш час выкарыстоўваюць хімічныя стымулятары выдзялення смалы. Тэхналогія П.: з аднаго боку ствала дрэва здымаюць кару жалезным стругам, потым спецыяльным *разцом* (хак) робяць нарэзкі (насечкі) у выглядзе елачкі. Існуюць 2 спосабы П.: узыходзячы і выходзячы, у залежнасці ад таго, як наразаюць,— знізу ўверх ці зверху ўніз. Смала сцякае па жолабе ў конусападобны металічны (раней ужывалі берасцяны ці гліняны) прыёмнік (*чарпак*). Берасцяны конус і гліняны гаршчочак ставілі на драўляныя калкі, убітыя ў прасвідраваныя ў ствале адтуліны. Металічны конус мацуюць на жалезных штырах або непасрэдна заганяюць у ствол. Падрэзку выконваюць уздымшчыкі. Зборшчыкі перыядычна выбіраюць смалу з прыёмнікаў. 2) Падрэзка кары бярозы, клёну для здабывання харчовага соку і вырабу напіткаў — *бярозавіку, кляновіку*. *Н. І. Буракоўская.*

**ПАДСТРЭ́ШША**, падстрэшак, прамежак ад ніжняга краю страхі да сцяны. Часта, асабліва на З Беларусі, навіслы край страхі абапіраецца на слупкі. П. засцерагае сцены ад дажджу, выкарыстоўваецца для захоўвання дроў і с.-г. прылад.

**«ПАДСЯВА́НКА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. Часцей за ўсё «П.» танцавалі па аднаму. Выканаўцы імітавалі прасейванне мукі праз сіта пагойдваннем цела і рук. Танец меў жартоўны характар. Суправаджаўся жартоўнымі прыпеўкамі, якія выконвалі пераважна юнакі. Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Мінскай і Брэсцкай абласцях.

**ПАДСЯДЗЕ́ЛАК**, сядзёлка, частка *вупражы*. У больш простым варыянце ўяўляе сабой шырокі скураны пас на лямцавай падкладцы, які замацоўваецца на спіне каня з дапамо-

гай папругі. Паверх П. праз металічныя кольцы ці скобкі, замацаваныя на апорных калодках, прапускаюць церассядзёлак (церассядзельнік), які падтрымлівае аглоблі. Нярэдка лямцавую падкладку мацуюць па цвёрдым корпусе па форме спіны жывёлы, да якой яна прылягае. П. выкарыстоўваюць



Падсядзёлак.



Падчэні дома ў гарадскім пасёлку Мір Карэліцкага раёна. 19 ст.

звычайна ў хамутна-аглабельнай запрэжцы. У хамутна-пастронкавай ці шлейнай сістэме вупражы П. нярэдка ўяўляў сабой наспінную дзягу, што мацуецца канцамі да пастронкаў, выконваючы адначасова і функцыі церассядзёлка. *В. С. Цітоў.*

**«ПАДУШАЧКА»**, адзін з самых распаўсюджаных старажытных карагодаў. Музычны памер $^4/_4$. Тэмп павольны. Выконваецца пад прыпеўкі з тыповым зачынам:

Падушачка, падушачка, а ўсё пухавая,

і далей:

Малодачка, малодачка мая маладая.
Каго люблю, каго люблю, таго пацалую,
Пуховую падушачку таму падару.

Карагод мае мноства варыянтаў: адны адносяць яго да карагодных гульняў, другія — да карагодных танцаў, трэція — да танцаў. Гульнёвы варыянт «П.» — кругавы карагод. Карагодную песню спяваюць хорам (у т. л. і словы асноўных персанажаў), а салісты ў цэнтры толькі ілюструюць яе рухамі. У некаторых мясцовасцях дзяўчынасалістка, якая танцуе ў крузе, трымае ў руках маленькую падушачку — «ясічак». Калі хор пяе: «Каго люблю, каго люблю, таго пацалую», дзяўчына падыходзіць да хлопца, які ёй спадабаўся, кланяецца і аддае яму «ясічак», потым яны цалуюцца і хлопец становіцца ў круг на месца дзяўчыны. Часам замест падушачкі салістка трымае ў руцэ хустку. Вядомы варыянт, калі «ясічак» або хустку клалі на падлогу, салісты станавіліся на іх і цалаваліся.

Сустракаецца варыянт «П.», у якім тэкст песні ў цэнтры круга разыгрывае хлопец-саліст. Як карагодны танец «П.» зафіксаваны ў в. Капараўка Рэчыцкага р-на. Выканаўцы ідуць па крузе, суправаджаючы кожны крок воплескам у далоні. Часам пасля слоў «пуховую падушачку таму падарую» дзяўчаты цалуюцца з хлопцамі, якія стаіць побач у карагодзе. У танцавальным варыянце «П.» (запісаны ў в. Азёрная Хоцімскага р-на) пасля сольнага танца той, хто стаяў у цэнтры круга, круціўся на чарзе з усімі ўдзельнікамі карагода (у пары злучаліся сагнутымі ў локцях рукамі). «П.» зафіксавана экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК амаль па ўсёй Беларусі. *С. В. Гуткоўская.*

**ПА́ДЧАРЫЦА**, падчарка, нядродная дачка мужу або жонцы; даводзіцца роднай адному з іх.

**ПАДЧЭ́НІ**, падсені, адкрытая галерэя ў драўляных збудаваннях. Выравшалася як стрэшка (з вынасам 1,5—2 м) на слупах (круглага ці квадратнага сячэння), замацаваных укосінамі з гарызантальнымі бэлькамі. П. размяшчаліся з аднаго тарцовага ці падоўжнага боку будынка на даўжыню фасада, часам апяразвалі ўвесь будынак (кружганкі). У 17—19 ст. рабілі ў культавых і грамадскіх збудаваннях (гандлёвыя рады, корчмы, аўстэрыі, паштовыя станцыі), у крамах і дамах гандлёва-рамесніцкага насельніцтва для выстаўкі тавараў і аховы іх ад непагадзі (г. п. Мір Карэліцкага, в. Трабы Іўеўскага р-наў, г. Лунінец і інш.) і ў сельскіх жылых і гасп. пабудовах (да канца 19 ст.). *С. А. Сергачоў.*

**ПАДЭСПА́НЬ**, гарадскі бытавы танец рускага паходжання. Музычны памер $^3/_4$, $^4/_4$. Тэмп умерана хуткі. Аўтар музыкі і танца артыст Вялікага тэатра А. А. Царман (Масква, 1898) пры стварэнні П. выкарыстаў характэрна-сцэнічныя элементы іспанскага танца. На Беларусі з'явіўся ў пач. 20 ст. Быў пашыраны і ў вёсках, дзе заўважна ўплыў нар. харэаграфіі. Выконвае П. любая колькасць пар, асноўны малюнак — круг. Найбольш характэрны варыянт танца, калі выканаўцы, узяўшыся за рукі, становяцца парамі на лініі танца тварам у твар і выконваюць простыя або прыстаўныя крокі ўправа і ўлева, павароты (дзяўчаты пад рукой хлопца), прытупы і інш. Гэты блок рухаў паўтараецца некалькі разоў запар. У Докшыцкім р-не часам выконвалі таксама па-дэ-баск. У Брэсцкай вобл. у час танца хлопцы выконвалі прысядку. П. суправаджаецца часам прыпеўкамі. *Г. К. Каляда.*



Падэспань. Выконваюць жыхаркі вёскі Малочкі Пружанскага раёна.

**ПАКЛЁСЫ**, падоўжныя бярвёны або жэрдкі, перакінутыя з аднаго звяна

плыта на другое і прывязаныя да *жэрасцяў* віцамі або дротам.

**ПАКРО́ВЫ,** старажытнае земляробчае свята славян, якое адзначалася 1 кастрычніка с. ст. як свята заканчэння палявых работ. Вытокі П.— у глыбокай старажытнасці, калі слав. земляробчыя плямёны пакланяліся розным язычніцкім багам. П. лічыліся пераломным момантам у жыцці прыроды. Да іх звычайна завяршаліся ўсе работы на полі і ў садзе, уцяпляліся жыллё і гасп. пабудовы. Пасля П. у сялянскім жыцці пачынаўся новы цыкл работ — нарыхтоўка паліва, перавод жывёлы на стойлавае ўтрыманне і г. д. («На пакровы дай сена карове», «Прыйшлі пакровы, пытаюць, ці да зімы гатовы»). Пасля П. пачыналася пара вяселляў. У народзе гавораць: «Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чэпкам». У гэты дзень, у залежнасці ад прыродных умоў, жывёле скармлівалі пажынальны сноп. Лічылася, што яна падрыхтавана да зімы. Дзяўчаты вечарам перад П. варажылі пра замужжа: слухалі з блінам на скрыжаваннях, у якім баку брэша сабака (туды, маўляў, пойдуць замуж); елі на ноч салёную аладку (сцадзяваліся, што суджаны паднясе вады) і інш. З П. раней пачыналіся попрадкі (вячоркі, супрадкі), якія працягваліся да вялікадня. *А. В. Цітавец.*

**ПАКРЫВА́ННЕ,** вясельны звычай, звязаны з пакрываннем нявесты (у некаторых выпадках нявесты і жаніха) наміткай, кажухом, шапкай або хусткай. Меў пераважна абярэгавае значэнне (ад злога вока, злых духаў і г. д.). Заручыўшы нявесту і расплёўшы ёй косы, сваякі маладога пакрывалі яе спецыяльна прывезенай для гэтага вялікай чырвонай хусткай (з гэтага часу маладая лічылася прыналежнасцю роду маладога). Калі маладая не атрымлівала хусткі, то пакрывалася сваёй, бо, згодна з нар. звычаем, пасля заручын нявеста магла выходзіць з хаты толькі пакрытай. Едучы да шлюбу, маладая акрамя хусткі пакрывалася кажухом (або апранала яго) незалежна ад пары года. Адпраўляючы маладых да бацькоў маладога, хросная маці маладой пакрывала іх дзвюма наміткамі (пазней хусткамі) і звязвала чырвоным поясам. За гэта малады адорваў яе (Брэсцкі пав.). У Мазырскім пав. пасля *завівання* маладой, якое адбывалася ў яе доме, завівальніца звязвала маладых поясам, які ляжаў каля каравая, і пакрывала іх наміткай. Раней перад П. яна здымала з галавы маладога шапку і надзявала яе на маладую, а яго галаву пакрывала шапкай, знятай з сябе. У Мінскім пав. маладых саджалі побач пад паліцай насупраць печы, а сястра маладой пакрывала іх белым палатном. У гэты момант жанчыны адразу акружалі іх шчыльнай сцяной, прыўздымалі канец пакрывала з боку маладой, завівалі яе і хутка надзявалі ёй намітку (бачыць мужчынам адкрытую галаву замужняй жанчыны лічылася непрыстойным). Потым бацька маладога здымаў пакрывала невялікім хлебам. У некаторых мясцовасцях пасля завівання маладую пакрывалі наміткай, якую малады павінен быў зняць, пацалаваць маладую і падняць яе з дзяжы. Пасля гэтага іх ставілі побач, пакрывалі гэтай жа наміткай і вялі ў хату, дзе яны ў такім выглядзе кланяліся прысутным, здымалі з сябе пакрывала і клалі яго на галовы бацькоў. Акрамя П. маладой вялікае значэнне мела і яе ўскрыванне, якое звычайна адбывалася ў хаце маладога: сустрэўшы нявестку першы раз, пакрывала з яе здымала свякроў, а пасля вяртання з клеці яе пакрывала здымаў пальцам або смычком свёкар. За гэта маладая адорвала яго кавалкам палатна (ручніком) і абвязвала поясам. *Л. А. Малаш.*



**Палачане.** Рэканструкцыя твару па чэрапу (з курганнага могільніка ў вёсцы Домжарыцы Лепельскага раёна).

**ПАЛА́ЗНІКІ,** службовыя асобы з сялян, якія ў 15—17 ст. кантралявалі бортнікаў ў час медазбору для вызначэння памеру мядовага падатку. У некаторых мясцовасцях тое, што і *бортнікі.*

**ПАЛАНЕ́З** (франц. polonaise ад polonais польскі), старадаўні польскі танец. Музычны памер $^3/_4$. Развіўся на аснове нар. танца-шэсця, які меў паважны, урачысты характар і называўся «пешым» (chodzony). У 17 ст. стаў танцам прывілеяваных слаёў грамадства і атрымаў назву П. У 18 ст. распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе. На Беларусі часцей сустракаўся ў гарадскім асяроддзі, нярэдка захоўваючы польскую назву «хадзоны». Кампазіцыйны малюнак — лінія, круг. Асноўны рух — простыя крокі з прысяданнем на 3-ю долю такта. Той, хто ішоў у першай пары, задаваў астатнім выканаўцам разнастайныя фігуры. Роўны, падцягнуты корпус, ганарлівы позірк выканаўцаў надавалі танцу ўрачыстасць. *Г. К. Каляда.*

**ПАЛА́ТКІ,** памост, зроблены на галінах дрэў, дзе, замаскіраваўшыся, сядзеў паляўнічы, калі высочваў аб'ект палявання (звера, птушку). Называліся таксама палаці.

**ПАЛАТНО́,** двухнітовая льняная тканіна, выробленая ў хатніх умовах. Кужэльнае П., якое ткалі ў 11—14 і больш *пасмаў*, выкарыстоўвалася на жаночыя і святочныя мужчынскія кашулі, а таксама наміткі. З пачыснага (зрэбнага ў 8—10 пасмаў) П. шылі мужчынскія будзённыя кашулі і порткі. Гатовае П. бялілі (гл. *Бяленне*), потым качалі качалкамі і скручвалі ў сувоі (паставы). П. было абавязковым атрыбутам *пасагу* маладой.

**ПАЛА́ЦІ,** у колішняй сялянскай хаце насціл з дошак, на якім спалі. Лакальная назва палаткі. Мацаваліся пры сцяне каля печы — адным канцом на яе ляжанцы, другім — на прыбітай да сцяны ці падвешанай да бэлькі планцы. У наш час выйшлі з ужытку.

**ПАЛАЧА́НЕ,** частка ўсходне-славянскай групы *крывічоў*, што ў 9 ст. насялялa тэрыторыю сучаснай Віцебскай і Пн Мінскай абласцей. На Пд мяжавалі з *дрыгавічамі*, на ПдУ са смаленскімі крывічамі, на Пн і У з ізборскімі крывічамі і наўгародскімі славенамі, на З з лета-літоўскімі плямёнамі. Паводле «Аповесці мінулых гадоў» назву атрымалі ад р. Палаты — прытока Зах. Дзвіны. На думку некаторых даследчыкаў, П.— саюз плямён, што вылучыліся з крывіцкага аб'яднання плямён з цэнтрам у Полацку, ад якога і атрымалі сваю назву. Стварылі адно з ранніх тэрытарыяльна-паліт. аб'яднанняў, якое дало пачатак Полацкаму княству. Самыя старажк. археалагічныя помнікі — доўгія курганы і паселішчы ў Полацку, Віцебску, Лукомлі. Карту гл. ў арт. *Крывічы.* *Г. В. Штыхаў.*

**ПАЛЕ́СКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў Заходняга і Усходняга Палесся. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ганчарны промысел існаваў прыкладна ў 10 цэнтрах, сярод якіх вылучаліся г. Пружаны і в. Гарадная Столінскага р-на (у кожным з іх працавала звыш 200 майстроў). З разнастайнай па саставу фармовачнай масы, якую рыхтавалі з аднаго (з дамешкам пяску для пячнога посуду) ці двух-трох розных гатункаў гліны, выраблялі чорназадымленую і непаліваную белую, а з пач. 20 ст. паліваную кераміку. Для асартыменту П. к. характэрныя агульнавядомыя на ўсёй Беларусі вырабы гаспадарчага (у меншай ступені утылітарна-дэкаратыўнага) прызначэння. Іх

фармавалі на нажным ганчарным крузе ў тэхніцы выцягвання, якую часам спалучалі з налепам; абпальвалі ў горне. Адметныя рысы П. к.— глянцаваны дэкор у чорназадымленых і *ангобная размалёўка* чырвонага колеру ў белагліняных вырабах, 1—2 вушкі ў пячнога посуду, акругласць (шарападобнасць) гаршкоў і інш. вырабаў. Найбольш выразна палескія традыцыі выявіліся ў гараднянскай, пагост-загародскай, пружанскай і ружанскай кераміцы (гл. адпаведныя арт.).

*С. А. Мілючэнкаў.*

**ПАЛЕ́ССЕ**, гісторыка-геаграфічная і этнаграфічная вобласць у басейне р. Прыпяць. Этымалогія звязана са слав. лес, балоцісты лясок, лясістая мясцовасць сярод балот, а таксама з балцкім Palá, Pâlios, Pelese, Pelŷso — балота, балоцісты лес, вялікае балота. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1276 адносна тэрыторыі на Пд ад Капыля; паводле гіст. крыніц 14—16 ст. (хронікі Я. Длугаша, М. Кромера, бел.-літоўскія і стараж.-укр. летапісы),— землі паміж Валынню, Мазовіяй, Прусіяй, Літвой і Руссю (апошняя пераважна ў Падняпроўі). Польскі гісторык М. Стрыйкоўскі больш дасканала лакалізаваў П.— землі на У ад Падляшскага ваяводства да р. Днепр, адзначаў, што там жывуць *літвіны* і *русіны*. Гіст. крыніцы 17—18 ст. варыятыўна вызначаюць арэал П. ад Брэста і Кобрына да Дняпра і Кіева, ад Слуцка і Капыля да Валыні, стабільна — тэрыторыю Папрыпяцця; упершыню ўпамінаюць этнанімічнае вызначэнне *палешукі* як назву насельніцтва рэгіёна. Рускі гісторык В. М. Тацішчаў (18 ст.) атаясамліваў П. з *Чорнай Руссю* і лакалізаваў іх землі паміж Дняпром, Прыпяццю, Мазовіяй і Жмуддзю. Сталічным горадам П. лічыў Навагрудак, насельніцтва называў рускімі, літоўцамі ці літвінамі. У навук. і публіцыстычнай літаратуры 19—20 ст. арэал назвы П. паступова пашыраўся. Гэта абумовіла ўзнікненне дыферэнцыраваных вызначэнняў П. па тэрытарыяльнай (Пінскае, Брэсцкае, Мазырскае, Валынскае, Бранскае, Жыздрынскае і інш.) і этнічнай (Беларускае, Украінскае, Рускае, Польскае) прыкметах. Даследчыкамі было адзначана, што тэрыторыя, дзе мела распаўсюджанне назва П., этнічна неаднародная, заселена насельніцтвам, якое размаўляе на дыялектах з перавагай элементаў бел., укр. і рускай моў; мае лакальныя культурна-бытавыя асаблівасці і дыферэнцыраваную этнанімічную самасвядомасць. Цяпер назва П. ўжываецца пераважна ў межах Пружаны — Бяроза — Косава — Івацэвічы — Ганцавічы — Старобін — Любань — р. Пціч — Ельск — Славечна — Красцень — Кастопаль — Ківерцы — Любомль — Ратна — Антопаль. Гл. таксама *Заходняе Палессе, Усходняе Палессе.*

*І. У. Чаквін.*

**ПАЛЕШУКІ́**, назва карэнных жыхароў *Палесся*. Называліся таксама палешчукі, палышчукі, палішчукі. Этымалогія звязана з тапонімам Палессе. Упершыню ў гіст. крыніцах упамінаецца на карце Вял. кн. Літоўскага Т. Макоўскага (1613) у адносінах да жыхароў узбярэжжаў Прыпяці. Даследаванні 19—20 ст. дазволілі больш падрабязна лакалізаваць арэал распаўсюджвання назвы П.: пераважна на Пн у межах Пружаны — Бяроза — Косава — Івацэвічы — Ганцавічы — Старобін — Любань — р. Пціч — Ельск — Славечна, на Пд — Ратна — Любомль — Ківерцы — Кастопаль — Красцень — Оўруч. У той жа час была адзначана наяўнасць аналагічных этнанімічных вызначэнняў (палехі, палюхі, палясяне і інш.) у насельніцтва на левабярэжжы Дняпра, у шэрагу раёнаў Калужска-Арлоўскага і Бранска-Жыздрынскага Палесся. У вобласці Бел.-Укр. Палесся ўжо ў 1-й пал. 20 ст. распаўсюджанне назвы П. не было паўсюдным і чаргавалася з інш. этнанімічнымі вызначэннямі (літвіны, беларусы, украінцы, палякі, рускія), часам замянялася імі ці мясцовымі урбонімамі і сельскімі этніконамі (пінчукі, тураўцы, гарадокцы, гарадчане і інш.). Пэўныя лінгвістычныя, этнагр., геагр., культурна-бытавыя і інш. асаблівасці розных груп П. абумовілі і дыферэнцыравасць іх назваў: П.-багнюкі, П.-гэтуны, П.-гідуны, П.-зюзюкі, П.-сакуны і інш. Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі і Зах. Украіны з БССР і УССР назва П. змянілася на этнонімы беларусы і украінцы. Гл. таксама *Заходняе Палессе, Усходняе Палессе.*

*І. У. Чаквін.*

**ПАЛІ́ВА**, шклопадобнае дэкаратыўна-засцерагальнае пакрыццё на кераміцы. У бел. нар. *ганчарстве* ўжывалася пераважна бясколерная П., якая складалася з легкаплаўкіх (900—1150 °С) матэрыялаў — кварцавага пяску або сухой расцёртай гліны пэўнага гатунку і перапаленага да поўнага пераходу ў вокіс свінцу. У якасці фарбаў дадавалі вокіс медзі (зялёнка), марганцу (бурштын), жалеза (кавальская дзындра). Рыхтавалі памолам з вадой на звычайных жорнах або шляхам сухой механічнай апрацоўкі. У адпаведнасці з тэхналогіяй падрыхтоўкі П. на вырабы наносілі двума спосабамі — вадкім і сухім (гл. ў арт. *Паліваная кераміка*). У наш час ганчары-надомнікі ўжываюць П. фабрычнай вытворчасці, а таксама ўласнага вырабу па традыцыйных рэцэптах.

*С. А. Мілючэнкаў.*

**ПАЛІВА́НАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы, пакрытыя з засцерагальна-дэкаратыўнай мэтай тонкім слоем шклопадобнай *палівы*. На Беларусі вядома з 12 ст. (дэкаратыўныя паліваныя пліткі на падлозе і сценах храмаў у Гродне, Полацку, Тураве, Пінску і інш.). У перыяд позняга феадалізму ў многіх гарадах была пашырана вытворчасць паліванай кафлі і сталовага посуду. Масавае распаўсюджанне П. к. ў нар. ганчарстве адбылося ў 2-й пал. 19 ст. Паліву наносілі на вырабы перад абпальваннем або пасля яго двума спосабамі — вадкім і сухім. Рамеснікі ў зах. раёнах Беларусі выкарыстоўвалі пераважна вадкую паліву, асноўныя кампаненты якой былі змешаны з вадой або рэдкім мучным клейстарам (членфай). Другі спосаб бытаваў пераважна на У, часам адначасова з першым. Кераміку напачатку абмазвалі дзёгцем, потым абсыпалі праз густое сітца (пытлік) парашком палівы або абкачвалі ў ім. Цалкам паліваныя вырабы ў народзе часта называлі паліванец, паліванка. Кераміка, пакрытая празрыстай бясколернай палівай, у залежнасці ад тэмпературы і вышыні агню ў працэсе абпальвання набывала блізкую да натуральнай чырвона-карычневую або зеленаватую афарбоўку. З-за нераўнамернага абпальвання на зялёным фоне часам выступалі светла-вохрыстыя плямы (такі посуд «у яблыкі» цаніўся асабліва высока). П. к. аздаблялі контррэльефным лінейна-хвалістым арнаментам, падпаліўнай (зрэдку надпаліўнай) размалёўкай. Традыцыйныя спосабы яе вытворчасці выкарыстоўваюцца ў наш час ганчарамі-надомнікамі, а таксама на прадпрыемствах аб'яднання «Беларуская мастацкая кераміка».



**Паліваная кераміка.**

*С. А. Мілючэнкаў.*

**ПАЛІГА́МІЯ** (грэч. polýs многі, шматлікі, вялізны + gámos шлюб), мнагашлюбнасць. Недакладны тэрмін, якім іншы раз называюць групавы шлюб, мнагамужжа (паліандрыю), найчасцей мнагажонства (палігінію).

**ПАЛІТО́НІМЫ** (грэч. politeia дзяржава + ónyma імя), назва народаў адпаведна іх дзяржаўна-палітычнай прыналежнасці. Паходзіць ад назвы тэрыторыі (Украіна — украінцы, Італія — італьянцы) ці ад *этноніма* аднаго з плямён, народаў, што даў назву дзяржаве (русы — Русь, рускія — Расія, палякі — Польшча). На тэр. Беларусі адным з першых П. была назва *палачане*, што ў 9 ст. вызначала частку крывічоў, у 10—13 ст.— насельніцтва Полацкага княства. Першапачаткова (9—10 ст.) ролю П. адыгрываў і этнонім русы, якім вызначалі ўсіх падданых зямлі русаў на чале з кіеўскімі князямі. У 16—18 ст. у якасці

П. выступала назва *літвіны*, якой называлі ўсіх жыхароў Вял. кн. Літоўскага. У канцы 18—19 ст. на значную частку насельніцтва Беларусі (пераважна праваслаўнага) у якасці П. распаўсюдзілася назва рускія, расіяне, якая мела яшчэ і канфесіяналыны сэнс (гл. *Канфесіёнімы*). Па меры этнічнай кансалідацыі розных тэрытарыяльных груп народаў П. часта трансфармуюцца ў этнонімы (жыхары Францыі — французы) ці існуюць разам з этнонімамі розных народаў адной дзяржавы (жыхары Югаславіі — югаславы, сербы, харваты, славенцы і інш.)

*І. У. Чаквін.*

**ПАЛІ́ЦА,** у колішняй сялянскай хаце гарызантальна прымацаваная да сцяны ці прыбітая пад бэлькамі дошка з бакавінамі для посуду і інш. хатняга начыння. Часта П. рабілі ў некалькі ярусаў уздоўж сцяны ад кута да дзвярэй. На Палессі П. часта называюць конікам (ніжнія часткі бакавін выпілоўвалі ў выглядзе галавы каня). У наш час сустракаецца ў гаспадарчых памяшканнях.

**ПАЛО́НІК,** вялікая драўляная лыжка, якой разліваюць страву; тое, што і *апалонік.*

**ПА́ЛЯ,** 1) моцная калода (найчасцей дубовая ці смалістая), якую ўкопвалі ў зямлю пад вугал будынка; тое, што і *штандара*. 2) Бервяно, брус, забітыя ў грунт, якія служаць апорай пабудовам, збудаванням.

**ПАЛЯВА́ННЕ,** пошук і праследаванне дзікіх звяроў і птушак з мэтаю іх здабычы. Мае доўгую гісторыю развіцця і пераўтварэння з асноўнага занятку першабытнага чалавека ў яго прамысловыя, аматарскія і спартыўныя формы ў сучасны перыяд.

Першабытны чалавек выкарыстоўваў для П. тыя ж прылады, што служылі яму для самаахове і здабывання карнёў (камяні, палкі, драўляныя дубіны, завостраныя на агні ствалы маладых дрэўцаў, крамянёвыя секачы, пазней — дроцікі, пікі, рагаціны, нажы). З такой зброяй П. было магчымым пры непасрэдным сутыкненні са зверам і патрабавала калектыўных форм і розных спосабаў П., заснаваных на веданні нораву, звычак, паводзін звяроў. П. вызначалася сукупнасцю традыцыйных прыёмаў высочвання і здабывання дзічыны і залежала ад сродкаў *паляўніцтва*. Спосабы П. сфарміраваліся на працягу каменнага веку. Менавіта адтуль вядуць пачатак такія спосабы П., як высочванне, трапленне, падыход, пад'езд, падпуск (сежа), аблава з нагонкай. На эпоху палеаліту прыпадае і вынаходства самалоўных прыстасаванняў.

Найбольш пашыранай і здабычлівай была а б л а в а з н а г о н к а й, якая бытуе і ў наш час пры П. на ласёў, дзікоў і ваўкоў. У адрозненне ад далёкага мінулага гучкі (клікуны, загоншчыкі) гоняць цяпер звяроў не ў дрыгву і глыбокія яры са стромкімі схіламі, а на лінію расстаўленых пэўным чынам стралкоў. Разнавіднасцю аблавы з нагонкай з'яўляецца л а в а, пры якой паляўнічыя ідуць доўгай шарэнгай разам з гучкамі. Лава, у якой удзельнічала насельніцтва некалькіх суседніх вёсак, прымянялася пры знішчэнні ваўкоў і пры П. на зайцоў. Жыццяздольнай аказалася а б л о г а, ці а б л а в а з ф л а ж к а м і (чырвонымі стужкамі, у мінулым — пучкамі разнаколерных пёраў, прывязаных на адлегласці не больш метра да шматкіламетровага шнура, якім ашнуроўвалі дзялянку лесу з загадзя высачанымі ваўкамі або лісамі). Аблога бывае разамкнутай, калі гучкі з шумам гоняць звяроў на стралкоў, і самкнутай, калі паляўнічыя размяшчаюцца па ўсім перыметры аблогі, уздоўж шнура. Апошні варыянт П. называецца к а т л о м. На дробных звяроў, пераважна зайцоў, палявалі катлом і без папярэдняга ашнуроўвання — паляўнічыя абкружалі пэўны ўчастак поля і, паступова звужаючы круг, стралялі ўспуджаных звяроў.

Са з'яўленнем кап'я, дроціка і лука (9 тысячагоддзе да н. э.) побач з калектыўнымі склаліся і пашырыліся індывідуальныя спосабы П. П а д ы х о д (П. з падыходу, скрад, скрадванне) — падкрадванне крокам або паўзком да звера на адлегласць выстралу. Т р а п л е н н е — пошук і выяўленне па слядах (тропах) месца знаходжання звера. Добры вынік ад яго зімой, асабліва па першым снезе, і летам па вільготнай зямлі, на якой даўжэй захоўваюцца сляды. Эфектыўнасць траплення значна ўзрасла пасля прыручэння сабакі (9—8-е тысячагоддзі да н. э.). П а д'е з д (П. на пад'езд) — набліжэнне да звера на санях або лодцы на адлегласць дакладнага стрэлу. А б'е з д — павольны аб'езд на санях звера на адкрытым месцы, з паступовым звужэннем круга. П о д п у с к (засада, сежа) — П., калі звера падпускаюць на выстрал з укрыцця — загадзя пабудаванай будкі або з палатак на дрэве. Падпуск часта спалучалі з *вабай*, асабліва ў час гону ласёў. Блізкае да вабы П. з парасём (распаўсюджанае ў 19 ст. сярод шляхты), калі на яго віск збягаліся ваўкі і гналіся за санямі з паляўнічымі, што ехалі ўздоўж лесу. З лукам, а пазней са стрэльбай палявалі на бараваю і балотную дзічыну. Цецерукоў стралялі на такавішчах ранняй вясной, зімой іх прывабл іва лі балванам *(чучалам)*, якога саджалі на жэрдку крыху ніжэй верхавін дрэў. Качак білі ў падход і на манькуту (падсадную качку). На бакасаў (баранчыкаў, козак), слонак (сломак, вальдшнэпаў), гаршнэпаў, дупеляў, турухтанаў (батальёнаў) палявалі ранняй вясной. П. са стрэльбой на дробных птушак мела пераважна спартыўны характар і карысталася папулярнасцю гал. чынам сярод гарадскіх паляўнічых. Сяляне лічылі за празмерную раскошу траціць набой на птушку ў чвэртку фунта вагой і лавілі іх пераважна *сіламі.*

Здаўна вядомы і неактыўныя спосабы П., заснаваныя на выкарыстанні самалоўных прылад і прыстасаванняў: лоўчых ям, петляў са скураных паскаў і сухажылля і інш. Асноўнай старажытнай зброяй П. быў лук, з 12 ст. пашырыўся ўдасканалены лук — куша (арбалет) з кольбай, ложай і механічным напінаннем цецівы, што павялічыла магчымасць актыўнага П. У 10—14 ст. П. ў жыцці чалавека на Беларусі займала значнае месца. На Полаччыне, Віцебшчыне і Тураўшчыне асноўным аб'ектам П. былі тур і зубр, на Ваўкавышчыне — дзік, на Пагарынні — бабёр, у ваколіцах Клецка — казуля. Для П. выкарыстоўваліся ўсе віды наступальнай і абаронч ай зброі: лукі, кушы, коп'і, дзіды, дроцікі, рагаціны, сякеры, чаканы, шаблі, нажы, кісцяні. Коп'і і дроцікі кідалі наводмаш з бегу ці нагнаўшы звера верхам, дзіды і рагаціны выкарыстоўвалі пры П. на буйных звяроў, асабліва мядзведзя. Пашыраным было П. разнастайнымі самаловамі, пасткамі (ступіца, ступа, торгала, ашчэп, ваўкоўня, трызубец), сеткамі (лятуха, звон, шацёр, плат, стажок, раз'езд), петлямі, сіламі (пружок, панажы, кола), з 18 ст.— капканамі саматужнай і фабрычнай вытворчасці. У сярэдневеччы папулярным было П. з сабакамі ці сокаламі. У 15—17 ст. для П. выкарыстоўвалі сабак-хартоў, якія даганялі і душылі звера, гончых, якія гналі звера з брэхам, выжлаў, якія нюхам адшуквалі птушак і ўзнімалі іх, а потым знаходзілі і прыносілі здабычу, ямнікаў (таксаў), з якімі палявалі на норнага звера. Сакалінае П. з «белазорамі» і «балабанамі» было выключна прэрагатываў караля і магнатаў. З канца 15 — пач. 16 ст. пашырылася П. з агнястрэльнай зброяй (напачатку сярод прадстаўнікоў пануючых класаў, з сярэдзіны 16 ст.— і сярод сялян). Да канца 19 ст. карысталіся шомпальнымі стрэльбамі: ручніцамі губчастымі («звярынымі» і «птушынымі»), крамянёвымі («крамзелямі» і «сакалоўкамі»), аднаствольнымі, пазней двухствольнымі дубальтоўкамі («пістонаўкамі»), у канцы 19 — пач. 20 ст. «бярданкай» — стрэльбай з зарадамі патроннага тыпу. П. з агнястрэльнай зброяй і адсутнасць дзейснага кантролю прывялі да масавага знішчэння многіх відаў жывёл, асобныя з якіх зваліся канчаткова (тур, зубр, тарпан, расамаха, собаль і інш.). П. насіла характар варварскай забавы прывілеяваных асоб і стала амаль недаступным для простага люду. Напр., у 1860 цар Аляксандр II і яго світа за 2 дні знішчылі ў Белавежскай пушчы 28 зуброў, 23 дзікі, 36 касуль і шмат інш. звяроў. Для загону звяроў, акрамя егераў і аб'ездчыкаў, было мабілізавана больш за 2 тыс. сялян, якія 3 тыдні заганялі звяроў у загарадзь. У час П. цара Мікалая II за 2 тыдні забіта 40 зуброў, 53 алені, 26 рысей, 36 ланей, 325 касуль, 138 дзікоў, 51 ліс і інш.

Сучаснае П. на Беларусі істотна адрозніваецца ад старажытнага. Са знішчальнага яно стала адной з форм

рацыянальнага прыродакарыстання. Носіць спартыўна-аматарскі характар і з'яўляецца актыўным адпачынкам, спосабам пазнання навакольнай прыроды; выпрацоўвае майстэрства, вытрымку, вынаходлівасць; павышае агульную культуру чалавека і яго адказнасць перад грамадствам і Радзімай. П. дазволена толькі членам т-ва паляўнічых і рыбаловаў у паляўнічы сезон па пуцёўках або ліцэнзіях, у вызначаных для П. паляўнічых угоддзях.

*С.Ф. Цярохін.*

**ПАЛЯВІ́К**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў. Яго ўяўлялі ў выглядзе велізарнага ценю. Быў увасабленнем небяспекі, што магла напаткаць чалавека ў полі, на лузе. Паводле павер'яў, садзейнічаў або шкодзіў людзям: клапаціўся пра ўрадлівасць палёў і лугоў, адпужваў шкодных насякомых або нахіляў да зямлі жыта, траву, скручваў іх, страшным аблічам і свістам палохаў людзей, прывальваў іх да зямлі, паражаў сандапёкам і нават забіваў. Зімой нібыта зацярушваў снегам дарогу, прымушаў блукаць падарожных. У бел. фальклоры вобраз П. адлюстраваны пераважна ў быліцах.

*М. Ф. Піліпенка.*

**ПАЛЯВЫ́Я ЭТНАГРАФІ́ЧНЫЯ ДАСЛЕ́ДАВАННІ**, збіранне этнаграфічных матэрыялаў шляхам непасрэдных кантактаў з насельніцтвам і вывучэння на месцы народнай культуры і побыту. Такая форма даследаванняў вядома з часу далучэння ў канцы 18 ст. Беларусі да Расіі (экспедыцыі І. І. Ляпёхіна ў 1773, краязнаўча-этнагр. апісанні бел. мясцін А. К. Меера ў 1786, В. М. Севергіна ў 1803—04). У 19 ст. нар. вераванні, звычаі і абрады, побыт і вусную нар. творчасць даследавалі З. Я. Даленга-Хадакоўскі, Ю. І. Крашэўскі, У. Сыракомля, Я. П. Тышкевіч, П. М. Шпілеўскі, М. М. Косіч і інш. Планамерныя даследаванні звязаны з дзейнасцю Рускага геагр. т-ва (РГТ), заснаванага ў 1845 у Пецярбургу. Яно распрацавала і разаслала па ўсёй краіне «Інструкцыю этнаграфічную». Пазней праграмы для збірання этнагр. звестак па бел. губернях распаўсюджваў у асноўным *Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства*, часам — асобныя збіральнікі. Гэта спрыяла актывізацыі П. э. д., уключэнню ў іх мясцовай, пераважна сельскай, інтэлігенцыі. Вялікую колькасць палявых фальклорна-этнагр. запісаў атрымалі ад сваіх карэспандэнтаў М. В. Доўнар-Запольскі, А. С. Дэмбавецкі, Е. Р. Раманаў, П. В. Шэйн і інш. У 1860—70-я г. РГТ накіравала на Беларусь этнагр. экспедыцыі на чале з М. Я. Дубенскім, С. В. Максімавым, П. П. Чубінскім, якія збіралі звесткі пра побыт, нацыянальны і канфесіянальны склад насельніцтва, запісвалі песні, казкі, абрады. Актывізацыі П. э. д. спрыяла дзейнасць Расійскай АН і Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (створана ў 1864 пры Маскоўскім ун-це). У 1880—90-я г. экспедыцыямі Доўнар-Запольскага і М. Л. Янчука даследаваўся побыт і духоўная культура сялян Мінскай і Гродзенскай губ. Збіральніцкай працай у палявых умовах займаліся М. Я. Нікіфароўскі на Віцебшчыне, У. М. Дабравольскі на Смаленшчыне, інш. этнографы. Рамана ў разам са шматлікімі фальклорна-этнагр. звесткамі сабраў на Магілёўшчыне і Віцебшчыне калекцыю с.-г. прылад, рыбалоўных снасцей, нар. адзення, хатняга начыння, якую перадаў у этнагр. аддзел Рус. музея ў Пецярбургу. Этнагр. даследаванні на Пд Беларусі, асабліва на Палессі, сістэматычна праводзілі І. А. Сербаў і А. К. Сержпутоўскі. Асноўную ўвагу яны звярталі на вывучэнне традыцыйных форм гаспадаркі і матэрыяльнай культуры, грамадскага побыту сялян; зрабілі шмат фотаздымкаў і замалёвак. У зах. Беларусі плённа працаваў М. Федароўскі, які амаль за 30 гадоў сабраў больш за 200 тыс. этнагр. і фальклорных запісаў.

Асабліва інтэнсіўна этнагр. даследаванні праводзіліся ў 1920-я г., калі да збірання матэрыялаў былі прыцягнуты краязнаўцы. Вялікую ролю ў гэтым адыграў час. «Наш край» (пазней «Савецкая краіна») — орган Цэнтр. бюро краязнаўства. У ім друкаваліся праграмы, інструкцыі, рэкамендацыі па апісанню і вывучэнню населеных пунктаў, матэрыяльнай культуры, промыслаў і рамёстваў, сямейнага, грамадскага і вытворчага побыту, гаспадаркі, разглядаліся тэматыка і методыка даследаванняў. Прафесійныя даследаванні праводзілі этнографы Інбелкульта, якія аднача сова накіроўвалі аматарскую дзейнасць у гэтай галіне краязнаўчых арганізацый і этнагр. ячэек пры музеях Мінска, Віцебска, Магілёва, Бабруйска і інш. У 1930-я г. ў сувязі з ліквідацыяй краязнаўчага руху і вульгарна-сацыялагічным падыходам да ацэнкі дзейнасці бел. этнографаў П. э. д. скараціліся. З 1931 галоўную ролю ў гэтай працы адыгрывала секцыя этнаграфіі Ін-та гісторыі АН БССР, аб'яднаная пазней з фальклорнай камісіяй. Супрацоўнікі секцыі ў складзе комплексных і фальклорна-этнагр. экспедыцый перыядычна праводзілі даследаванні ў розных рэгіёнах Беларусі. Аднак многія пытанні побыту і культуры вывучаліся, зыходзячы з памылковых метадалагічных установак тых часоў. Усяго да Вял. Айч. вайны ў АН БССР было назапашана звыш 70 тыс. адзінак этнагр. апісанняў і фальклорных тэкстаў, да 10 тыс. здымкаў і 2 тыс. этнагр. экспанатаў (знішчаны ў вайну).

У даваенны перыяд П. э. д. на Беларусі праводзілі таксама Цэнтр. музей народазнаўства (Масква), этнагр. аддзел Рускага музея (пазней Музей этнаграфіі народаў СССР, Ленінград). У Зах. Беларусі іх праводзілі Я. Арынжына, У. Галубовіч, З. Дмахоўскі і інш. Этнагр. экспанаты збіралі супрацоўнікі Бел. музея ў Вільні, музеяў Гродна, Пінска.

Пасля вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў сектар этнаграфіі і нар. творчасці Ін-та гісторыі АН БССР аднавіў этнагр. даследаванні на Палессі, паступова ахопліваючы і інш. рэгіёны. Збіраліся параўнальныя звесткі і ў сумежных раёнах РСФСР, УССР, Латв. ССР. Асноўная ўвага аддавалася вывучэнню традыцыйных земляробчых прылад працы, жылля, нар. адзення, а таксама новых з'яў у побыце калгаснай вёскі. Тэматыка палявых работ прыкметна пашырылася пасля стварэння ў 1957 Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР з асобным сектарам этнаграфіі (з 1986 аддзел), супрацоўнікі якога планамерна вывучалі матэрыяльную культуру, сучасны побыт і культуру сельскага і гарадскога насельніцтва, нар. веды, звычаі і абрады, промыслы і рамёствы, сям'ю і сямейны побыт. На сістэматычных П. э. д. у 1960—80-я г. спецыялізаваліся І. М. Браім, Н. І. Буракоўская, В. М. Бялявіна, М. Я. Грынблат, У. С. Гуркоў, У. М. Іваноў, Г. І. Каспяровіч, А. М. Курыловіч, Т. І. Кухаронак, М. С. Лобач, Л. А. Малчанава, С. А. Мілючэнкаў, Л. І. Мінько, Э. Р. Сабаленка, В. С. Цітоў, С. Ф. Цярохін і інш. У 1965—70 выканана спецыяльная праграма даследаванняў у сувязі з падрыхтоўкай рэгіянальнага атласа Беларусі, Украіны і Малдавіі. Абследавана звыш 140 населеных пунктаў БССР, у кожным з якіх дэталёва вывучаліся нар. жыллё, с.-г. тэхніка і адзенне. Было складзена 1234 адзінкі этнагр. апісанняў, назапашаны багаты ілюстрацыйны матэрыял. У 1977 этнографы АН БССР і музейныя работнікі пачалі праграму П. э. д. у сувязі са стварэннем *Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту*. На 1-м этапе (завершаны ў 1980) выяўлялі, фіксавалі і ўлічвалі жыллёвыя, гаспадарчыя і грамадскія драўляныя пабудовы музейнага значэння, збіралі калекцыі прадметаў побыту, матэрыялы для этнагр. заніравання экспазіцыі і складання тэматычна-экспазіцыйных планаў. На 2-м этапе ўдакладняліся помнікі нар. архітэктуры для музейнага экспанавання, праводзіліся іх абмеры, разборка і транспарціроўка ў музей. Працягваецца вывучэнне традыцыйнага побыту і культуры сялян, збіранне экспанатаў.

У пасляваенны час П. э. д. на Беларусі эпізадычна праводзіць Ін-т этнаграфіі АН СССР. Этнагр. калекцыі збіраюць краязнаўчыя і мастацкія музеі Мінска, Брэста, Гродна, Віцебска, Магілёва, Маладзечна, Пінска і інш., Музей этнаграфіі народаў СССР. Даследаванні праводзяцца паводле спецыяльнай методыкі. У залежнасці ад тэматыкі і задач работа арганізавана ў стацыянарнай і экспедыцыйнай формах. Стацыянарная форма выкарыстоўваецца для працяглага (ад 2—3 месяцаў да

некалькіх гадоў) усебаковага вывучэння параўнальна невялікай групы насельніцтва. Яна прадугледжвае доўгатэрміновае пражыванне даследчыка сярод мясцовых жыхароў (прымянялася ў 1951—52 пры вывучэнні калгаса «Бальшавік» Хойніцкага р-на). Экспедыцыйная форма выкарыстоўваецца для правядзення даследаванняў на працягу некалькіх тыдняў і збірання звестак у некалькіх населеных пунктах. Гэта дазваляе за кароткі тэрмін атрымаць матэрыялы з вялікай тэрыторыі. Такая форма найбольш падыходзіць для даследавання адзення, жылля, прылад працы, начыння і інш. Асноўныя метады экспедыцыйнага абследавання — куставы (вылучаюцца базавыя населеныя пункты для збірання матэрыялаў па поўнай праграме з наступным удакладненнем звестак у навакольных пасяленнях) і маршрутны (кожны населены пункт вывучаецца ў аднолькавай ступені). Апошні метад у 1970—80 г.— дамінуючы. Пасяленні вывучаюць шляхам суцэльнага або выбарачнага абследавання. Візуальныя назіранні і вусныя звесткі пра культуру і побыт заносяцца адпаведна ў палявы дзённік і палявы спытак. Для збірання масавага матэрыялу выкарыстоўваюць рознага роду апытальнікі і анкеты, прадметы і з'явы матэрыяльнай культуры фіксуюць і пры дапамозе фотаздымкаў, замалёвак, чарцяжоў. Часам вядзецца адбор этнагр. прадметаў для музеяў. Асноўныя крытэрыі іх адбору — аўтэнтычнасць, тыповасць, канструкцыйна-мастацкая выразнасць.

Матэрыялы П. э. д. зберагаюцца ў архівах розных устаноў і ведамстваў. Асноўныя дарэв. фонды знаходзяцца ў архівах РГТ і АН СССР (Ленінградскае аддзяленне), рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага ун-та, Музеі этнаграфіі народаў СССР; матэрыялы пасляваеннага перыяду — у архіве ІМЭФ АН БССР (у ім больш за 3 тыс. адзінак этнагр. апісанняў, 8,5 тыс. малюнкаў і каля 6 тыс. фотаздымкаў). На падставе сабраных у час П. э. д. звестак апублікавана больш за 60 зборнікаў этнагр. матэрыялаў, манаграфічных даследаванняў, альбомаў і інш.

*С. А. Мілючэнкаў.*

**ПАЛЯ́КІ**, нацыя, асноўнае насельніцтва Польскай Народнай Рэспублікі. Колькасць 36,8 млн. чал. (1984). Больш за 10 млн. П. жывуць за межамі Польшчы: у ЗША (каля 6,5 млн. чал.), Канадзе, Бразіліі, Аргенціне, Францыі, Вялікабрытаніі, ФРГ, Бельгіі, ЧССР і інш., а таксама у СССР —1150,9 тыс. чал., у т. л. ў БССР —403,2 тыс. чал. (перапіс 1979). Польшча этнічна амаль аднародная, П. складаюць 98,4 % усіх жыхароў (1980). Акрамя іх, пражываюць беларусы, украінцы, славакі, рускія, кашубы (асіміляваныя па рубяжы 19—20 ст.) і інш. Гавораць на польскай мове. Большасць веруючых П.— католікі.

У 10—11 ст. у перыяд фарміравання раннефеадальнай Польскай дзяржавы складвалася і польская народнасць. Яе этнічную аснову склалі паляне, слянзане, вісляне, мазаўшане, памаране. У 11 ст. з'явіўся этнонім «палякі». Як нацыя П. сфарміраваліся ў 18—19 ст. Пасля 1-й сусветнай вайны ўтварылася польская буржуазная дзяржава. У яе склад не ўвайшлі многія зах.-польскія землі, у той жа час яна захапіла раёны, населеныя беларусамі, украінцамі, літоўцамі. Уз'яднанне ўсіх польскіх зямель адбылося пасля 2-й сусветнай вайны. У зах. раёнах Польшчы, адкуль выехалі немцы і дзе асталіся П.-аўтахтоны, пасяліліся рэпатрыянты з СССР і былыя эмігранты, якія вярнуліся з зах. краін. З усх. раёнаў Польшчы выехалі ў СССР беларусы і ўкраінцы.

Этнакультурныя сувязі бел. і польскага народаў маюць даўнія традыцыі. Групы П. на этнічных бел. землях існавалі ўжо ў 12 ст. Узмацненне польскага этнакультурнага ўплыву на Беларусі прыпадае на перыяд пасля Люблінскай уніі 1569, калі бел. землі разам з інш. землямі Вял. кн. Літоўскага ўвайшлі ў федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую. Частка бел. насельніцтва, асабліва прадстаўнікі вышэйшых саслоўяў, розных груп шляхты, прымаючы уніяцкую або каталіцкую веру, змяняла сваё этнічнае самавызначэнне. Перасяленне на бел. землі груп П. з этнічных польскіх зямель было нязначным. Сваю этнічную спецыфіку захоўвалі групы мазурскіх перасяленцаў, т. зв. буднікаў (чыншавая шляхта), што займаліся ляснымі промысламі і жылі на Палессі ў т. зв. будах. Своеасаблівым вынікам абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей на Беларусі пасля ўваходжання яе земляў у склад Расіі ў выніку трох падзелаў (1722, 1793, 1795) Рэчы Паспалітай стала ўтварэнне на бел. этнічных землях, бел.-літоўскім этнічным пагранічны пэўных тэрыторый, на якіх сяляне, з'яўляючыся католікамі па веравызнанню, вызначалі сваю этнічную прыналежнасць як польскую, і імкнуліся да пераймання пэўных элементаў польскай культуры.

Ва ўмовах, калі на бел. землях існавалі розныя формы шматмоўя, у т. л. бел.-польскае, узнік і ў далейшым уздзейнічаў на працэс фарміравання польскай літаратурнай мовы мясцовы дыялект польскай мовы, т. зв. ўскраінная польская мова (polszczyzna kresowa; літаратурная дзейнасць А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, Я. Ходзькі, Э. Ажэшкі).

У 1897 на Беларусі жыло больш за 140 тыс. П., найбольш у Гродзенскай (10 %) і найменш у Магілёўскай (1 %) губернях. Паслядоўна колькасці П. на Беларусі ў 20 ст. адбывалася ў асноўным на зах.-бел. землях, якія ў 1921—39 уваходзілі ў склад буржуазнай Польшчы. Ва ўмовах узмацнення сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту ў Зах. Беларусі праводзілася палітыка акаталічвання і паланізацыі насельніцтва. Сюды з этнічных польскіх земляў перасяляліся групы асаднікаў, розныя катэгорыі рабочых і чыноўнікі. Усяго ў 1920—30-я г. ў Зах. Беларусь перасялілася каля 300 тыс. П.

У той жа час П. ў БССР — адна з асноўных этнічных груп (паводле перапісу 1926 іх налічвалася 97,5 тыс. чал.). Этнакультурныя асаблівасці польскага насельніцтва ў БССР, спецыфіка этнічных сувязей бел. і польскага народаў улічваліся даволі поўна і шматбакова. У 20-я г. пры ЦК КП(б)Б існавала Польбюро. Работай польскамоўных навучальных устаноў рэспублікі кіравала Польбюро Нар. камісарыята асветы БССР. Настаўнікаў для польскіх школ рэспублікі рыхтавала польскае аддзяленне Бел. дзярж. вышэйшага педагагічнага ін-та (да 1935; потым Мінскі педагагічны ін-т). У 1920—30-я г. на польскай мове выходзілі газеты «Młot» («Молат»), «Orka» («Ворыва»), «Gwiazda Młodzieży» («Зорка моладзі»), «Szturmowiec Kojdanowszczyzny» («Ударнік Койданаўшчыны»), пазней «Szturmowiec Dzierżyńszczyzny» («Ударнік Дзяржыншчыны»). Існавала Польскае аддзяленне Бел. асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. У 1929—35 працаваў Польскі дзярж. вандроўны тэатр БССР, які рэгулярна выязджаў у рэгіёны рассялення П.

У месцах кампактнага пражывання польскага насельніцтва ў 1920—30-я г. існавала больш за 40 нацыянальных польскіх сельсаветаў. З іх $^1/_4$ знаходзілася ў Койданаўскім (потым Дзяржынскім) польскім нацыянальным раёне. Вывучэннем матэрыяльнай і духоўнай культуры П. на Беларусі займаўся польскі сектар Інбелкульта. У ім працавалі этнограф і фалькларыст К. Даўкша, Ч. Дамброўскі, гісторыкі У. Хржчановіч і Ляндаберг. Этнаграфічная камісія сектара правяла экспедыцыю на Асіпоўшчыну, стацыянарнае даследаванне Рудня-Стаўбунскага і Рудня-Шлягінскага сельсавета і інш.

З уз'яднаннем Зах. Беларусі з БССР (вер. 1939) колькасць П. у БССР значна павялічылася, але ўжо ў 1940 з зах. абласцей Беларусі, Украіны і раёна Вільнюса незаконна выслана было на Пн і У каля 600 тыс. П. Паводле дамоўленасці паміж урадамі БССР і ПНР у 1944—48 у рамках абмену насельніцтвам паміж СССР і Польшчай з БССР у ПНР пераселена 274,2 тыс. чал. польскай нацыянальнасці, у т. л. пэўная колькасць беларусаў-католікаў, якія пры перасяленні падалі сваю нацыянальнасць як польскую. Мігранты з Беларусі былі ў асноўным пасёлены на зах. і паўн. уз'яднаных землях Польшчы. У 1955—59 адбыўся 2-і этап рэпатрыяцыі П. з СССР, які ахапіў у асноўным польскае насельніцтва зах. абласцей Беларусі і Украіны.

У сямейным побыце сярод старэйшага пакалення перасяленцаў дагэтуль шырока распаўсюджана ўскраінная польская мова. Некаторыя асобы ста-

рэйшага ўзросту карыстаюцца бел. мовай.

Паводле перапісу 1979 на Беларусі 403,2 тыс. П., з іх 31,2 тыс. чал. лічаць роднай польскую мову, 298,4 тыс. чал.— бел. мову. Вывучэнню асаблівасцей матэрыяльнай і духоўнай культуры П. на Беларусі, этнічнай гісторыі польскага насельніцтва рэспублікі спрыяла дзейнасць Міжрэспубліканскай групы па вывучэнню польскіх гаворак на тэр. СССР, якая існавала ў 1967—84 пры Ін-це мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР паводле ініцыятывы В. Л. Вярэніча. Вынікі даследаванняў змешчаны ў працы «Польскія гаворкі ў СССР» (ч. 1—2. Мн., 1973). Побыт П. меў спецыфічныя рысы: больш, чым у беларусаў, пашыраны планіроўка жылля, хата+сенцы+хата, верхняе адзенне тыпу жупан, кунтуш, сурдут; пэры ці чорны колер адзення, асаблівасці харчавання і інш. На сучасным этапе для бел.-польскіх этнічных сувязей характэрна рознабаковае этнакультурнае зблiжэнне, узаемапераймание элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. У наш час этнакультурныя адрозненні П. ад насельніцтва, сярод якога яны жывуць, у шэрагу выпадкаў невыразныя. *І. В. Карашчанка.*

**ПАЛЯКСЯ́НЕ,** заходнябалцкае племя ў басейне р. Нараў і на правабярэжжы Буга ў першых стагоддзях 2-га тысячагоддзя н. э. Упершыню ў гіст. крыніцах упамінаецца ў 13 ст. (Хроніка В. Кадлубака), пазней у «Гісторыі Польшчы» Я. Длугаша, стараж.-рускіх летапісах, «Вялікай хроніцы». Этымалогію назвы звязваюць з балцкімі гідронімамі Palá, Pâlios Pelesá, Pelysâ — балота, балоцісты лясок, вялікае балота, р. Lek (Elk) — paleksiani. На думку сучасных даследчыкаў, П. разам з *дайновай* і *яцвягамі* ў 10—13 ст. складалі яцвяжскі племянны саюз. У 13 ст. землі П. падвяргаліся нападам польскіх, кіеўскіх, галіцка-валынскіх князёў і нямецкіх рыцараў. У выніку да канца 13—14 ст. П. былі расселены і захаваліся гал. чынам у цяжкадаступных месцах (у Белавежскай пушчы і інш.). Доўгія і крывавыя ваенныя дзеянні суседзяў з П. абумовілі тэндэнцыйныя характарыстыкі іх у летапісах і хроніках як язычнікаў, ваяўнічага, лютага і бязлітаснага племені. У 14—15 ст. землі П. увайшлі ў Вял. кн. Літоўскае (Падляшскае ваяводства), з 1569 у Рэчы Паспалітай. Асіміляваны беларусамі, украінцамі, палякамі, часткова літоўцамі. У 2-й пал. 19 ст. П. (паляшане, палясяне) упамінаюцца ў дзярж. статыстычных дакументах Расіі як жыхары Брэсцкага і інш. паветаў Гродзенскай губ.; адзначалася, што яны карысталіся рускай мовай, спавядалі праваслаўную веру, але адрозніваліся ад астатняга насельніцтва аблічам і звычаямі.

*І. У. Чаквін.*

**ПАЛЯНДВІ́ЦА,** мясны выраб; вяленае або вэнджанае мяккае мяса з сярэдзіны хрыбта свіной тушы. Называлі таксама паляндрыца. П. зразаюць, соляць, націраюць часнаком, перцам і інш. духмянымі прыправамі; для завяльвання ўпіхваюць у гладкую кішку або шчыльна абцiскаючы, абвязваюць палатном і вешаюць у сухім месцы. Часам перад завяльваннем трымаюць у расоле. Звычайна П. пакідаюць на лета — час працаёмкіх с.-г. работ.

**ПАЛЯНІ́ЦА,** 1) булка хлеба, звычайна круглай формы, з пшанічнай мукі. Пяклі П. таксама з жытняй, грэцкай або ячнай мукі, такую П. перад выпечкай абкачвалі ў муцэ. Вядома спарадычна на Магілёўшчыне, Гомельшчыне, Цэнтр. і Усх. Палессі. 2) Прэсны корж або печыва з хлебнага цеста, спечаныя пры агні. Вядома на Віцебшчыне, Цэнтр. Палессі.

**ПАЛЯЎНІ́ЦТВА,** адна са старажытных форм гаспадарчай дзейнасці чалавека. На працягу многіх гіст. эпох — асноўны занятак чалавека, што забяспечваў яго сродкамі існавання: ежай (мяса, тлушч), адзеннем (скура, воўна, футра, пух), сыравінай для вырабу прылад працы, зброі, упрыгожанняў, амулетаў (біўні, іклы, косці, скура, сухажыллі), а таксама будаўнічымі матэрыяламі і палівам (косці, скура, тлушч). У мінулым П. называлі таксама *ловы* (лавітва). У адрозненне ад паняцця «паляванне», якое абазначае сам працэс здабычы дзічыны, сучасны тэрмін «П.» ахоплівае шматлікія пытанні арганізацыі, правядзення і спосабы палявання, што ажыццяўляюцца на падставе навуковых рэкамендацый, этычна-прававых норм і законаў, а таксама добраўпарадкаванне паляўнічых угоддзяў і ахову прамысловай фауны.

У гісторыі станаўлення чалавечага грамадства П. стала першаасновай усёй дзейнасці людзей і іх культуры. У палеаліце недасканаласць паляўнічай зброі кампенсавалася добрым веданнем звычак і нораву звяроў, а галоўнае — аблаўна-загонным паляваннем, адметнай рысай якога быў калектывізм. Як форма гаспадарчай дзейнасці П. прадвызначала і калектыўны характар працы, і супольнае спажыванне, якое прадугледжвала забеспячэнне ежай і тых, хто не прымаў удзелу ў паляванні,— жанчын, дзяцей, старых і хворых.

На тэр. Беларусі П. вядома 40—100 тыс. гадоў таму назад, з моманту засялення яе першабытнымі плямёнамі, якія палявалі на мамантa і касматага насарога. Пасля знікнення гэтых жывёл (у чым многія даследчыкі абвінавачваюць чалавека) асноўным аб'ектам П. стаў паўн. алень. У канцы верхняга палеаліту (10—9-е тысячагоддзі да н. э.) у выніку адыходу рэшткавага ледавіка на тэр. сучаснай Беларусі наступіла пацяпленне і ўсталявалася геалагічная сучаснасць. Паступова выраслі дрымучыя лясы, у якіх рассяліліся тур, зубр, высакародны алень, лось, казуля, сарна, лань, дзік, мядзведзь, бабёр, ліс, барсук, куніца і інш. На мяжы верхняга палеаліту і мезаліту чалавек прыручыў сабаку, які стаў незаменным памочнікам паляўнічага, папярэджваў пра небяспеку, высочваў звера, а пры паляванні на драпежнікаў адцягваў на сябе іх увагу. У новых экалагічных умовах пашырыліся неактыўныя спосабы П.: *лоўчыя ямы*, пасткі, *сілы*, петлі. На працягу ўсяго неаліту, бронзавага і ранняга жалезнага вякоў і нават у пазнейшы час на долю дзічыны прыпадала амаль палова ўсяго спажываемага чалавекам мяса. Рэшткі касцей прамысловай жывёлы, знойдзеныя пры раскопках археалагічных помнікаў 9—14 ст. (у Полацку, Віцебску, Пінску, Клецку, Давыд-Гарадку, Тураве, Ваўкавыску), складаюць ад агульнай колькасці выяўленага астэалагічнага матэрыялу 31,5 %, а часам нават набліжаюцца ці пераўзыходзяць рэшткі хатняй жывёлы (41,3 % у Давыд-Гарадку, 45,7 % у Клецку, 55,4 % у Ваўкавыску, 57 % у Гародні.) У канцы ранняга сярэдневечча ў асяроддзі феадалаў набыло папулярнасць паляванне з сабакамі і сокаламі. У 15—17 ст. у асноўным палявалі з непародзістымі дваровымі сабакамі, якіх называлі дручковымі. Яны былі незаменныя пры паляванні на дзіка і мядзведзя. З 16 ст. ў пісьмовых крыніцах часта ўпамінаюцца паляўнічыя сабакі для спецыялізаваных відаў палявання: агары (ганчакі), выжлы, харты, норнікі. На гусей і качак нярэдка хадзілі з прыручанымі выдрамі (часта сумесна з сабакамі). Сакаліная паляванне на працягу свайго існавання (10—19 ст.) было прывілеяй вялікіх князёў, каралёў і магнатаў. Кошт выдрэсіраванага сокала ў той час быў роўны кошту двух канёў ці трох валоў. Найбольш прыдатнымі лічыліся белазоры і балабацы. Першыя прыкметы фаўністычнага крызісу выявіліся ўжо ў 12—14 ст. У археалагічных пластах 14 ст. стараж. Полацка ўжо не сустракаюцца косці зубра, аленя, казулі, дзіка; Віцебска — зубра, аленя, дзіка; Лукомля — казулі. У 16—18 ст. у сувязі з інтэнсіўным антрапагенным уздзеяннем на прыроду (развіццём хімічных промыслаў па вырабу паташу, смалы-жывіцы, драўлянага вугалю, нарыхтоўкай таварнага лесу на экспарт, павелічэннем плошчаў ворнай зямлі, непамерным паляваннем, а ў 19 ст.— пракладкай чыгуначных ліній) узмацніўся адмоўны ўплыў на прамысловую жывёлу, што прывяло да скарачэння арэалаў яе пашырэння. Зніклі цэлыя папуляцыі паляўнічых звяроў: так, у 1627 быў знішчаны апошні еўрапейскі тур, у сярэдзіне 18 ст.— тарпаны, у пач. 19 ст.— высакародныя алені мясцовай папуляцыі. Звяліся собалі, мядзведзі-мурашкаеды, расамахі, чорныя зайцы, лясныя каты, дрофы. У 1919 (па інш. звестках у 1921) быў знішчаны апошні зубр.

П. з даўніх часоў рэгулявалася нормамі звычаёвага, пазней санкцыянаванага дзяржавай паляўнічага права. «Руская праўда» (11 ст.), з якой бярэ

пачатак кадыфікаванае права ўсх. славян, прадугледжвала крымінальную адказнасць за крадзеж звяроў у чужых угоддзях, птушак з перавесаў, псаванне лоўчых сетак, паляванне на чужых угоддзях і браканьерства. Але ў «Рускай праўдзе» прамысловая жывёла трактавалася яшчэ не як прыроднае багацце, што падлягае ахове, а як маёмасна-вартасная адзінка прыватнай уласнасці. Першыя крокі ў агульнадзярж. маштабе са свядомай мэтай забеспячэння штогадовага біялагічнага ўзнаўлення пагалоўя лясного статку ажыццявіў у 1420 вял. князь Вял. кн. Літоўскага Ягайла. З комплексу прадугледжаных мерапрыемстваў істотнае значэнне мела ўстанаўленне акрэсленага тэрміну палявання: восенню пасля заканчэння палявых работ і да 7 красавіка (с. ст.). Прыкладна з таго часу на Беларусі ўсталявана запаведнасць пэўных паляўнічых угоддзяў, створаны адмысловы інстытут лясной аховы. Больш паглыбленае развіццё паляўнічае права як юрыдычнай сістэма мерапрыемстваў і норм П. атрымала ў Статуце Вял. кн. Літоўскага, які дзейнічаў з 1529 па 1840. Ва ўсіх яго трох рэдакцыях (1529, 1566, 1588) маюцца прысвечаныя П. раздзелы. Шэсць артыкулаў Статута 1529 «Аб ловах, аб пушчах, аб бортным дрэве, аб бабровых гонах, аб хмялішчах, аб сакаліных гнёздах» тычацца непасрэдна П. і часткова *бортніцтва.* За парушэнне санкцыяніраваных правіл і норм (паляванне на чужых угоддзях, разбурэнне сакаліных і лебядзіных гнёздаў, крадзеж і псаванне лоўчых прылад і інш.) прадугледжвалася дэталёва распрацаваная шкала пакарання — ад грашовага штрафу (з браканьераў дадаткова спаганяўся рынкавы кошт забітай жывёлы) і аж да смяротнага прысуду. Артыкул «Аб бабровых гонах» прадугледжваў запаведнасць у месцах рассялення баброў (гл. *Бабровыя гоны).* Другая і трэцяя рэдакцыі Статута (1566, 1588) захавалі асноўныя прававыя палажэнні П. Статута 1529, але значна павялічылі пакаранне за браканьерства: удвая ўзрос кошт аленя, сарны, ланi, карага і чорнага бабра, утрая — рысі. У спіс звяроў, якія падлягалі ахове, дадаткова ўключылі собаля і куніцу. У 16 ст. дадаткова прыняты тры агульнадзярж. акты, у якіх поруч з інш. пытаннямі лясной і воднай гаспадаркі значнае месца адводзілася П. «Устава на валокі» (1557) падрабязна рэгламентавала ўмовы і правілы карыстання паляўнічымі ўгоддзямі, устанаўлівала новыя абмежаванні і забароны. Так, сялянам дазвалялася паляваць на сваіх валоках на воўка, лісіцу, рысь, расамаху, зайца, вавёрку і інш. дробных звяроў (у т. л. птушак). Буйных звяроў забаранялася біць нават на сваіх валоках. Знаходжанне ў гаспадарскіх пушчах або каля іх з ручніцамі (стрэльбамі) каралася смерцю. Паляванне з сабакамі на ваўкоў, лісіц і зайцоў было прызнана шкодным для азімых і яравых пасеваў; шляхце таксама было забаронена займацца гэтым відам палявання. Аднак, як адзначаў Г. Валовіч у складзенай ім «Рэвізіі пушчаў і пераходаў звярыных у Вялікім княстве Літоўскім з далучэннем грамат і прывілеяў на ўваходы ў пушчы і на землі...» (1559), сяляне мелі вялікую колькасць ручніц, стралялі звяроў і прыносілі пушчам вялікую шкоду.

У канцы 16 — пач. 17 ст. галоўная ўвага аддавалася захаванню прыродных умоў жыцця і размнажэнню звяроў. Пастанова караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV (1640) абмяжоўвала высечку лесу і нарыхтоўку лесаматэрыялаў, прадугледжвалася прымусовае высяленне з пушчаў сялян і скарачэнне ў іх межах пасяўных плошчаў. «Ардынацыя каралеўскіх пушчаў у лясніцтвах Вялікага княства Літоўскага...» (1641) удасканальвала сістэму аховы жывёльнага свету і ўмацоўвала кіраўніцтва лясной гаспадаркай — былі перагледжаны абавязкі ўсіх чыноў лясной службы: ляснічых, асочнікаў, стральцоў. Забараняўся шэраг промыслаў: вытворчасць паташу, драўнянага вугалю, нарыхтоўка смалы-жывіцы, спынена разворванне зямлі і высечка лесу, а ў Белавежскай пушчы — забаронена пракладваць новыя дарогі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ў 2-й пал. 18 ст. П. яшчэ доўгі час рэгулявалася заканамі Вял. кн. Літоўскага. У Расійскай імперыі першы агульнадзяржаўны закон пра П. выдадзены ў 1892. Аднак увядзенне паляўнічых пасведчанняў і забарона здабываць дзічыну некаторымі самалоўнымі прыладамі не аказалі станоўчага ўплыву на ўпарадкаванне паляўнічай гаспадаркі, тым больш што закон прызнаваў права палявання за ўласнікамі лясоў без абмежавання. Ігнаравалі закон і сяляне, сярод якіх існавала перакананне, што ўсё створанае прыродай з'яўляецца агульным здабыткам. Браканьерства часта набывала форму падсвядомага пратэсту супраць сацыяльнай несправядлівасці. Нягледзячы на тое, што царскі ўрад на працягу 1831—63 шэсць разоў праводзіў абяззбраенне насельніцтва Беларусі, браканьерства ў канцы 19 ст. дасягнула неймаверных памераў.

Канец масаваму знішчэнню прыродных багаццяў паклала Кастрычніцкая рэвалюцыя. Значную ролю ў арганізацыі П. і вядзенні паляўнічай гаспадаркі адыграў дэкрэт СНК «Аб паляўніцтве» падпісаны 20.07.1920 У. І. Леніным. На Беларусі ўпарадкаванне П. пачалося са стварэння ў 1921 Усебел. саюза паляўнічых. У 1927—33 выдаваўся часопіс «Паляўнічы Беларусі», які асвятляў дзейнасць паляўнічых арганізацый, друкаваў парады і афіцыйныя распараджэнні па разнастайных пытаннях П. У 1924 у Бел. дзярж. ін-це сельскай і лясной гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў Горы-Горацкім земляробчым ін-це быў уведзены курс навуковых асноў паляўніцтвазнаўства. У выніку стварэння ўмоў узнаўлення дзікіх жывёл і прававога рэгулявання П. ў рэспубліцы даведзена да прамысловага ўзроўню колькасць парнакапытных, баброў і балотнай птушкі. Колькасна-відавы паказчык фауны бел. лясоў на працягу апошніх гадоў падтрымліваецца з нязначнымі сезонна-гадавымі ваганнямі на прамысловым узроўні. П. на жывёл, занесеных у Чырвоную кнігу БССР, забаронена. На забеспячэнні натуральнай рэпрадукцыі асноўных відаў паляўнічай жывёлы заснавана прамысловае, спартыўнае і аматарскае П. *С. Ф. Цярохін.*

**ПАЛЯЎНІ́ЧАЯ ЗБРО́Я,** прылады для палявання на дзікіх звяроў і птушак. Падзяляецца на абушную (доўбня, булава, кісцень, сякера), колючую (рагаціна, дзіда, кап'ё, дроцік), сякучую (кінжал, стылет, меч, шабля), кідальную (прашча, лук, куша, стрэльба). П. з. прайшла шлях удасканалення ад завостранай на агні палкі і востракановага каменнага секача да сучаснай агнястрэльнай стрэльбы з аптычным прыцэлам.

Вынаходства ў мезаліце (9—5-е тысячагоддзі да н. э.) лука — эпахальная падзея ў гісторыі дзейнасці чалавека, у прыватнасці ў *паляўніцтве:* скалліся новыя спосабы і прыёмы палявання, заснаваныя на высочванні, трапленні (высочванні па следу) і скрадванні (прыём падкрадвання) звяроў. Паляванне стала менш небяспечным і больш прадукцыйным. Страла даганяла звера ці птушку на адлегласці звыш 100 м на зямлі, на вадзе і ў лёце. У 10 ст. ўзбраенне паляўнічых папоўнілася ўдасканаленым лукам — кушай (самастрэл, арбалет) з кольбай, ложай і казінай нагой, пазней шасцерневым калаўротам для нацягвання цецівы. Забойная сіла новай зброі перавышала лук удвая. Да 18 ст. асноўнай і універсальнай зброяй заставаўся лук: ім карысталіся пры ўсіх актыўных спосабах палявання і на ўсіх без выключэння звяроў і птушак. На працягу стагоддзяў ён спаборнічаў з агнястрэльнай зброяй. У слабаразвітых краінах Афрыкі, Пауд. Амерыкі, на востраве Новая Гвінея і ў інш. кутках свету з лукам палююць і ў наш час.

У канцы 15— пач. 16 ст. на Беларусі пашырылася агнястрэльная зброя. Папярэдніцай сучаснай стрэльбы была гаркабуза (аркабуза, аркабуз, гаркабузік), пазней ручніца — гладкаствольная шампалоўка з кнотавым, з 16 ст. крамянёвым замком (скалкоўка, крамзеля). У залежнасці ад калібру і прызначэння ручніцы падзяляліся на «ручніцы звярыныя» і «ручніцы птушныя» («пташынка» — лёгкая стрэльба малога калібру пераважна для палявання на птушак). У 1-й чвэрці 19 ст. з'явіліся пістаноўкі — стрэльбы з перкусійным замком і пістонам з запальным рэчывам, ад якога загараўся парахавы зарад. Яны мелі мала прыхільнікаў, бо часта давалі асечкі, займалі многа часу на замену пістона і пры самай малой неасцярожнасці самаадволь-

на стралялі. З гэтае прычыны крамянёўкі праіснавалі да 1880-х г., іх выцесніла вынайдзеная ў Францыі (1837) дубальтоўка са спаранымі ў гарызантальнай плоскасці двума стваламі. У яе ствалах знаходзіліся два патроны з розным шротам, якімі можна было страляць у патрэбнай паслядоўнасці, а галоўнае — амаль імгненна паўтарыць выстрал. Добрым боем (кучнасць, дальнастрэльнасць) вызначаліся бярданкі (бярдан), перарobленыя са спісаных у 1891 армейскай 4,2-лінейнай вінтоўкі сістэмы Бярдана. Выкарыстоўвалася асобнымі паляўнічымі да 1940-х г. У карыстанні бел. паляўнічых знаходзілася вялікая колькасць стрэльбаў, перарobленых з вайсковай зброі, што асядала ў насельніцтва пад час войнаў. Асабліва многа яе засталося пасля адыходу напалеонаўскай арміі ў 1812. Другой крыніцай забеспячэння было частае перазбраенне рускай арміі. Рознымі шляхамі сяляне здабывалі спісаную зброю ў вайсковых арсеналах і жалезных складах Бабруйска, Гомеля, Мазыра, Чарнігава. Выраб агнястрэльнай зброі на Беларусі дасягнуў высокага майстэрства яшчэ ў 16 ст. Дакументы 1540 сведчаць, што гродзенскі майстар Раман Мікіціч вырабляў зброю і ўсё неабходнае для стрэльбы начынне. Бел. броннікі працавалі ў Маскоўскім Крамлі. Зробленая імі зброя дагэтуль зберагаецца ў Аружэйнай палаце. У 19 ст. высокім прафесіяналізмам вызначаліся брагінскія майстры, а зробленыя хойніцкім слесарам Кандратам Жураўскім стрэльбы да 1880 не мелі сабе роўных.

Сучасная П. з. вызначаецца разнастайнасцю тыпаў і мадэляў. Пры ўсіх канструкцыйных адрозненнях яны маюць адны і тыя ж вузлы і функцыі. Найбольшым попытам карыстаюцца дубальтоўкі цэнтр. бою, напр. бескуркоўка «ІЖ-58» («іжаўка») і куркоўка «ТОЗ-БМ» («тулка»). Добра зарэкамендавалі сябе «трайнікі» з двума гладкімі і адным наразным ствалом для стральбы патронамі баявога тыпу пры паляванні на лася і дзіка. П. з. вырабляецца ў СССР 12, 16, 20, 28 і 32 калібраў. Некаторыя тыпы яе для аматарскага палявання («МЦ-7») выраблююцца паштучна, на заказ. *С. Ф. Цярохін.*

**ПАЛЯЎНІЧЫ РЫШТУНАК,** сукупнасць прыстасаванняў і матэрыялаў (акрамя зброі), неабходных для палявання, у тым ліку ёмістасцей для іх захоўвання і пераноскі. Да 20 ст. порах трымалі ў ражках — парахаўніцах з валовых, барановых, казіных рагоў з драўлянымі донцамі і пустацелым коркам, які адначасова служыў меркай для пораху на адзін набой. Адсутнасць грошай вымушала сялян ужываць самаробны порах. Выраблялі яго з салетры і серы, набытых у аптэках ці ў вандроўных гандляроў, і вугалю, выпаленага з акораных алешынавых ці крушынавых цурак. У больших ражках порах трымалі дома, у меншых (на 10—20 набояў) бралі з сабой на паляванне. Мяшочкі для шроту — шратаўні — выраблялі са скуры, мачавых пузыроў ці барановых машонак. Знешне яны нагадвалі капшукі для тытуню ці магалейкі для крэсіва, губы і крэменю. Зашморгваліся мяккім, моцным сырамятным матузком. Часам верх шратаўні сабіралі ў зборачкі і з дапамогай вару (са смалы-жывіцы і воску) і прасмаленых пянькавых нітак прымацоўвалі да драўлянай ці адпілаванай ад каровінага рога трубкі. Часам шратаўню рабілі са скуры, знятай панчохай з шыі жураўля. Такая перашытая пасярэдзіне дратвай шратаўня мела два рагавыя рыльцы для насыпання розных нумароў шроту. Скалкі (кавалкі крэменю) загортвалі ў палатняныя анучкі; пістоны захоўвалі ў берасцяных пушачках. Замест пыжоў (клака, пляйтух) паляўнічыя-сяляне ўжывалі пакулле ці высушаны мох, пазней — старыя газеты. Пры паляванні з шампалоўкамі — стрэльбамі, што зараджаліся праз дула (скалкоўкі, пістонаўкі), паляўнічы карыстаўся драўляным, пазней драцяным з накруткай шомпалам. Для яго захоўвання ў ложы стрэльбы мелася гняздо. Усе прыпасы для стральбы і інш. П. р. насілі ў торбах, якія шылі з барсучыных ці ласіных скур поўсцю наверх або з юхту. Вызначаліся барсучыныя торбы: нар. майстры ў якасці знешніх элементаў дэкору часта выкарыстоўвалі ўтыльныя часткі барсучынай скуры (хвост, лапы, галаву). Ласіныя торбы шылі з вузкіх палосак скуры, што здзіралі з галёнак упалёванага звера; рытмічнае чаргаванне швоў ажыўляла шэрую аднастайнасць ласінай поўсці. Часам паляўнічую торбу аблямоўвалі знізу махрамі з конскага ці зубрынага воласу або веправай шчаціны; яны маскіравалі трокі — шнуркі або раменьчыкі з каванымі пярсцёнкамі для падвешвання здабычы. Паляўнічыя-сяляне звычайна абыходзіліся бяростравым кашалём *(вярэнька)* або проста палатнянай торбай. Са з'яўленнем стрэльбаў з патронамі пашырыліся ладункі (ладоўніцы) — падсумкі для патронаў і патранташы з гнёздамі для патронаў. Пры паляванні на пэўных звяроў паляўнічы браў з сабою адпаведныя *вабікі*. Пры паляванні з сабакамі і пры аблавах абавязковай прыналежнасцю паляўнічага былі паляўнічая *труба* і *рог*. У залежнасці ад моцы і тэмбру гуку, а таксама ад месца палявання паляўнічыя трубы падзяляліся на бароўкі (з імі палявалі ў барах), нятроўкі



**Паляўнічы рыштунак.** Шратоўні.

**Паляўнічы рыштунак.** Сігнальныя рагі.




**Паляўнічы рыштунак.** Паляўнічыя сумкі: 1 — барсучыная; 2 — ласіная; 3 — юхтовая; 4 — камбінаваная.

(палявалі ў нетрах, дзе хутка «глохне» гук) і хартоўкі (для палявання з хартамі). Адпаведныя мелодыі на трубе выконвалі пры раскладцы дзічыны ў час урачыстага заканчэння палявання.

*С. Ф. Цярохін.*

**ПАМІНКІ,** абрады ўшанавання памяці памерлага чалавека; звязаны з *культам продкаў* і верай у замагільнае існаванне. П. звычайна адбываліся ў доме, дзе памёр чалавек, адразу пасля *пахавання* і ў наступныя пасля смерці дні: 3-і (трацiны), 9-ы (дзевяціны), зрэдку 20-ы (паўсарачыны), 40-ы *(сарачыны)*, пaўгодкі. Цыкл П. на нябожчыку завяршаўся гадавінай яго смерці. Затым ішлі агульныя П. па ўсіх памерлых родзічах — *дзяды*. На першыя П. запрашалася ўся радня і ўдзельнікі пахавання, на наступныя — блізкія сваякі. На П. маглі прысутнічаць свяшчэннік, старцы. У правядзенні П. назіраліся і язычніцкія элементы (галашэнні), і хрысціянскія (чытанне малітваў, запальванне свечак). Жалобны стол пачынаўся звычайна з *куцці* або *канула*, які кожны браў з агульнай міскі па тры лыжкі. У залежнасці ад мясцовых традыцый існавалі розныя рытуальныя страві: клёцкі, боб, гарачы хлеб, які трэба было разрываць рукамі, і інш. Ужывалася на П. і гарэлка. Асобную чарку, як і талерку з ядою, ставілі для нябожчыка, каб душа яго, пачаставаўшыся, у наступным спрыяла тым, хто застаўся пасля яго ў хаце і па гаспадарцы. Акрамя жалобнага стала ў хаце, П. праводзіліся і на *могілках*. У наступны дзень пасля пахавання блізкія ішлі «будзіць нябожчыка» на яго магілу, дзе падпраўлялі насып, паміналі, галасілі. Месцамі захаваліся такія памінальныя звычаі, як *прыкладзіны*. У гэты дзень упарадкоўвалі магілу — абкладвалі яе дзёрнам, ставілі крыж. Тое ж рабілі і ў іншыя поры года — на *радаўніцу* (на большасці тэр. Беларусі) і напярэдадні *сёмухі* (на У Беларусі). Традыцыйны абрад П. захоўваецца і ў наш час.

*У. А. Васілевіч.*

**ПАМОРСКАЯ КУЛЬТУРА,** усходнепаморская культура, культура падклёшавых пахаванняў, археалагічная культура плямён, якія ў 7—2 ст. да н. э. насялялі тэрыторыі Польшчы, ПдЗ Беларусі і ПнЗ Украіны. Падзяляецца на 3 этапы, на тэр. Беларусі вядомы 3-і этап (культура падклёшавых пахаванняў), які датуецца 4—2 ст. да н. э. Асноўныя заняткі — земляробства, жывёлагадоўля, паляванне і рыбалоўства, былі развіты хатнія рамёствы. Насельніцтва жыло на селішчах у паўзямлянкавых і наземных жытлах з каменнымі агнішчамі [на селішчы каля в. Кусічы (цяпер в. Агароднікі) Камянецкага р-на выяўлены рэшткі наземнага жытла слупавой канструкцыі памерам 4,5×4 м, сценкі якога каля асновы былі абкладзены камянямі, з 2 агнішчамі ўнутры, у даволі глыбокіх ямах]. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных могільніках. На Беларусі вядомы 4 віды пахаванняў: абкладзеныя камянямі, падклёшавыя (урна накрыта вял. гаршком — «клёшам»), урнавыя і ямныя. Вырабляліся грубаляпныя гаршкі з дамешкамі ў гліне пяску і жарствы з шышкаватай, шурпатай паверхняй, глянцаваныя збанкі, міскі, вазападобныя пасудзіны, кубкі, накрыўкі карычневага і чорнага колеру, раннелатэнскія жалезныя і бронзавыя фібулы, пярсцёнкі, каменныя і шкляныя пацеркі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што П. к. належала ранням славянам.

*В. С Вяргей.*

**«ПАМПАДУР»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^4/_4$. Тэмп умераны. Верагодна, «П.» прыйшоў у побыт сельскага насельніцтва з арыстакратычных салонаў. Часта слугі з панскіх двароў, якія выконвалі свецкія танцы перад адпавяскоўцамі, пераймалі какетлівую, вычварную танцавальную манеру арыстакратаў і надавалі танцу насмешлівы, часам камічны, нават гратэскавы характар. Танцоры ў парах (рукі злучаны накрыж) выконвалі прыстаўныя крокі ўправа і ўлева дыяганальна лініі танца; затым выконвалі па чарзе крок то на правую, то на левую нагу, пры гэтым свабодную нагу падымалі высока ўверх перад сабой. У канцы фігуры пары праходзілі наперад простым крокам. Потым выканаўцы, стоячы тварам адзін да аднаго, рабілі бакавыя прыстаўныя крокі і до-за-до. Гэты блок руxaў паўтараўся некалькі разоў запар. «П.» зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Шклоўскім р-не і інш. раёнах Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*

**ПАМПУШКІ,** пульхныя мучныя аладкі, спечаныя з дражджавога цеста або з замешанага на содзе і кіслым малацэ. Пяклі П. таксама з цеста, прыгатаванага з тоўчанай варанай бульбы і мукі. Вядомы на Гродзеншчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне, спарадычна — на Цэнтр. Палессі. На Навагрудчыне, Тураўшчыне П. называюць булачкі, пернікі, коржыкі. Іх пякуць на вяселле, благавешчанне і інш. святы. У Жыткавіцкім р-не існаваў звычай абсыпаць П. маладую на вяселлі.

**«ПАМЯТНЫЕ КНИЖКИ ГУБЕРНИЙ»,** назва афіцыйных урадавых выданняў, што выходзілі ў большасці губерняў царскай Расіі. Часам выдаваліся па звужанай праграме («Адрас-каляндар... губерні», «Адрас-каляндар і даведачная кніга», «Памятная кніжка і каляндар»). Мэта такіх выданняў — публікаваць звесткі для разнабаковага вывучэння губерні. Выдаўцы — губернскія статыстычныя камітэты. З 1860 «П. к. г.» выходзілі ў Віцебскай, Гродзенскай і Мінскай, з 1861 — у Магілёўскай губ. Мелі раздзелы: адрас-каляндар з пералікам губернскіх і павятовых урадавых і грамадскіх устаноў і іх супрацоўнікаў; даведачны са звесткамі пра адміністрацыйны падзел, пошту, тэлеграф, шляхі зносін, фабрыкі і заводы, навучальныя ўстановы, музеі, бібліятэкі, кнігарні і друкарні на тэр. губерні; статыстычны. У літаратурна-навуковым раздзеле друкаваліся архіўныя матэрыялы, пісцовыя і плацежныя кнігі, летапісы гарадоў, артыкулы па мясцовай гісторыі, эканоміцы, этнаграфіі, фальклору, біяграфіі і некралогі мясцовых дзеячаў. На старонках памятных кніжак былі змешчаны працы: па Віцебскай губ.— «Віцебск: гістарычны нарыс» (1864) і «Пра кірмашы Віцебскай губерні» (1867) А. М. Семянтоўскага, «Гістарычны лёс Віцебскай губерні з канца XII да пачатку XVI стагоддзя» (1866—67) П. Дружылоўскага, «Пра народныя святы Себежскага павета» (1867) Ф. Сярэбраннікава, «Беларускія загадкі» (1898) М. Я. Нікіфароўскага; па Гродзенскай губ.— «Абрады і звычаі заходнярускіх сялян» (1869) М. А. Дзмітрыева, «Нарыс дамашняга жыцця і нораваў вышэйшых саслоўяў у Літве ў XVI і XVII ст.» (1869), «Нарыс гісторыі горада Гродна, складзены на аснове друкаваных крыніц» (1890) Я. Арлоўскага; па Магілёўскай губ.— «Хроніка губерні за апошніе дзесяцігоддзе» (1907); па Мінскай губ.— «Нататкі пра плямёны Мінскай губерні» (1861) І. Зяленскага, і інш. Беларускі матэрыял змяшчалі і памятныя кніжкі Віленскай губ.

*Л. І. Збралевіч.*

**ПАНАЖЫ,** састаўная частка *красён*, якая служыць для прывядзення ў рух *нітоў*. У канцы 19 — пач. 20 ст. на Беларусі пашыраны 2 тыпы П. Найб. старажытныя П.— круглыя палкі даўж. 70—80 см, якія гарызантальна падвешвалі пад нітамі (характэрныя для ПдУ). Больш пашыраны П. ў выглядзе дошчачак шыр. 8—12 см. Пры дапамозе шнуркоў П. з аднаго боку злучаліся з нітамі і былі крыху прыўзняты, а з другога мацаваліся нерухома. Ніты прыходзілі ў рух ад націскання П. нагамі.

**ПАНЁВА,** даўняе жаночае паяснoе адзенне ўсходніх славян. Вядомы П.: расхінная (3 сшытыя суконныя ці паўсуконныя полкі, сабраныя зверху на шнуры, якім мацавалася на таліі, крысcе адкрытае спераду ці збоку) і закрытая, або глухая (4 цалкам сшытыя полкі, адна з якіх неаздобленая). На мяжы рассялення беларусаў, рускіх і ўкраінцаў насілі П. з 2 полак, сшытых прыкладна на $^2/_3$ даўжыні. Найбольш тыповыя клятчастыя сінія, чырвоныя, чорныя П. *неглюбскага строю*, аздобленыя ўзорамі квадратаў, ромбаў, крыжыкаў і інш. Бытавала да пач. 20 ст.

*М. Ф. Раманюк.*

**ПАНІБРАЦТВА** (ад польск. panie bracie пан-брат), сістэма паводзін і адносін у асяроддзі *шляхты* ў Польшчы, на Беларусі, у Літве і на Украіне. Згодна П. уся шляхта лічылася раўнапраўнай і прытрымлівалася сяброўскіх, таварыскіх адносін. Вытокі П. звязаны з працэсам узнікнення ваеннаслужылых груп насельніцтва (воінаў, дру-

жыны, баяр, рыцараў і інш.). Канчаткова аформілася ў 14—17 ст. (у час складвання ваеннаслужылага саслоўя — шляхты, *зямян* і інш.) як адзін з галоўных прынцыпаў шляхецкай ідэалогіі сарматызму (гл. *Сарматызм*). У падобных формах (напр., кумпанства, братчына, братчынства і інш.) ці часткова П. было характэрна для ладу жыцця, адносін і побыту інш. саслоўных груп насельніцтва (казакаў, баяр панцырных, часткова гараджан). Элементы П. захоўваліся ў адносінах паміж нашчадкамі былога шляхецкага саслоўя ў канцы 19 — пач. 20 ст.

*І. У. Чаквін.*

**«ПА́ННАЧКА»**, карагодная гульня. Суправаджаецца песнямі. Дзяўчаты рухаліся з запаленымі свечкамі ў руках і стараліся патушыць свечку суседкі, а сваю захаваць запаленай. «П.» зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гродзенскай вобласці.

**ПАНЦА́К**, буйныя ячныя крупы, а таксама *крупнік* з мясам або малаком, прыгатаваны з гэтых круп. Вядомы на Гродзеншчыне, Чэрвеншчыне.

**ПАНЯМО́ННЕ**, гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, які займае тэрыторыю Гродзенскай і сумежных частак Брэсцкай і Мінскай абласцей. На Пд мяжуе з *Заходнім Палессем* (на вярхоўях р. Нараў і Ясельда да Бярозы і Івацэвіч), на У і ПнУ адпаведна з *Цэнтральнай Беларуссю* і *Паазер'ем* (на З ад Баранавіч па Налібоцкай пушчы, на Маладзечна, Мядзел, Паставы; карту гл. ў арт. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён*). Насельніцтва этнагенетычна склалася на слав. аснове, з удзелам асіміляваных літоўцаў (стараж. літвы і аўкштайтаў), ятвягаў, прусаў, татараў і інш. У сярэднія вякі рэгіён быў вядомы пад назвай Літва, побач з якой ужывалася і другая назва — *Чорная Русь* (у пісьмовых крыніцах сустракаецца з 15 ст.), якая ўзнікла, відаць, як антытэза Белай Русі. Як этнагр. адзінка Чорная Русь, на думку некаторых аўтараў (М. К. Любаўскі, П. Д. Брянцаў, У. І. Пічэта і інш.), уяўляла сабой першапачаткова слав. масіў на землях балцкіх плямён. У канцы 10 — 1-й пал. 11 ст. далучана да Кіеўскай Русі. У 12 — 1-й пал. 13 ст. знаходзілася ў сферы ўплыву галіцка-валынскіх і полацкіх князёў. У 13 ст. рэгіён апынуўся ў цэнтры важных палітычных падзей, якія аказалі непасрэдны ўплыў на ўтварэнне Вял. кн. Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Яго першай сталіцай быў г. Навагародак (Навагрудак), дзе ў 1253 каранаваўся вял. князь Міндоўг. У гэты час этнічны склад насельніцтва рэгіёна папоўніўся за кошт шырокай хвалі перасяленцаў з Мазовіі, Прусіі, Жамайціі, што сцякаліся сюды пад націскам тэўтонскай агрэсіі, а таксама мігрантаў з паўднёва-рускіх зямель, якія падвергліся спусташальнаму мангола-татарскаму нашэсцю. Край станавіўся адным з самых населеных і багатых абласцей Стараж. Русі.

У выніку этнічнага сімбіёзу на слав. аснове складваецца рэгіянальны тып культуры, у якой спалучаліся заходнярускія (беларускія), польскія і балцкія рысы. Агульны лёс бел. і літоўскага народаў у складзе адзінай дзяржавы абумоўліваў працяглы час узаемны ўплыў і блізкія рысы ў развіцці этнасацыяльных, грамадска-прававых і эканам. адносін. У аснову статутаў Вял. кн. Літоўскага (1529, 1566, 1588) як асноўных кодэксаў грамадзянска-прававога жыцця было закладзена заходнярускае звычаёвае права, а дзярж. мовай Вял. кн. Літоўскага стала старабел. мова. Пасля Крэўскай (1385), Люблінскай (1569) і асабліва царкоўнай Брэсцкай (1596) уній узмацнілася экспансія каталіцтва і паланізацыя краю. Мясцовыя бел. феадалы, прымаючы каталіцтва, захоўвалі свае паліт. прывілеі і ўтваралі адзіны феадальны клас. З цягам часу паняцце католік стала сінонімам паляка. Аднак пераважная большасць мясцовага каталіцкага насельніцтва, што адносіла сябе да палякаў, размаўляла на жывой бел. мове, якую лічыла роднай. Беларусы праваслаўнага веравызнання яшчэ ў 19 ст. часцей за ўсё называлі сябе ліцвінамі. Зменлівая паліт. і канфесійная сітуацыя ўскладняла і без таго



Жанчыны ў святочных касцюмах з **панёвамі**. Вёска Неглюбка Веткаўскага раёна. Сярэдзіна 19 ст.

стракаты этнасацыяльны склад мясцовага насельніцтва, размывала міжэтнічныя межы, узмацняла працэсы інфільтрацыі і асіміляцыі. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) П. адышло да Расіі. На яго тэрыторыі былі створаны Літоўская (1797—1801), пасля Гродзенская і Віленская губ. З 1920 П. ў складзе Польшчы, у 1939 уз'яднана з БССР.

У ландшафтах П. ўзгоркавыя ўзвышшы і перасечаныя раўніны чаргуюцца з шырокімі нізінамі, дрэніраванымі рэчышчамі Нёмана і яго прытокаў. Дзярнова-падзолістыя глебы, што развіліся на лёсападобных суглінках і водна-ледніковых супесках, пры захаванні адпаведных агратэхнічных правіл давалі высокія ўраджаі. У структуры пасеваў першае месца займала жыта (у сярэдзіне 19 ст.— 48,8 % усёй плошчы), затым ішлі авёс (28,8), пшаніца (5,2), грэчка (4,6), ячмень (3,6), гарох (3), бульба (2,5); лён, проса, рэпа і каноплі займалі разам каля 3 % пасеваў. У 2-й пал. 19 ст. пашырыліся пасевы кармавых траў, што паляпшалі структуру глебы і стымулявалі развіццё жывёлагадоўлі. Палі апрацоўвалі з дапамогай т. зв. літоўскай (палескай) сахі, якая была прыстасавана да мясцовых умоў і мела часта больш лёгкую канструкцыю для аднаконнай (ці аднаваловай) запрэжкі. Шырокае развіццё мануфактурнай вытворчасці садзейнічала развіццю гандлёвых адносін. Прамысловасць Гродзенскай губ. давала ў 1859 прадукцыі больш, чым усе астатнія бел. губерні, разам узятыя. Шырокі размах у П. атрымаў кірмашовы гандаль (толькі Зэльвенскі кірмаш у 1-й пал. 19 ст. па таваразвароту пераўзыходзіў усе кірмашы Мінскай і Віленскай губ.).

Да аграрнай рэформы 2-й пал. 16 ст. характэрным тыпам сельскіх пасяленняў была невялікая вёска з свабоднай (бессістэмнай) забудовай. Перабудова пасяленняў паводле «Уставы на валокі» 1557 ахапіла 90 % вёсак Гродзенскай эканоміі (больш, чым у якім-небудзь іншым рэгіёне Беларусі). У выніку правядзення *валочнай памеры* ўзнікла шмат новых вёсак вулічнага тыпу, якія размяшчаліся на адкрытай мясцовасці ўздоўж дарог і гандлёвых трактаў, паблізу рэк і азёр. Устаўныя вёскі (з жылымі памяшканнямі на адным баку вуліцы і з гаспадарчымі на другім) захоўваліся тут да пач. 20 ст. Вёскі дзярж. сялян (напярэдадні рэформы 1861 складалі трэцюю частку насельніцтва) былі больш упарадкаванымі, у іх значна раней (1860-я г.) курныя хаты былі заменены «чыстымі». Прадстаўнікі свабоднага саслоўя — дробная шляхта, аднадворцы — пражывалі ў аколіцах, засценках, фальварках, назвы якіх часцей паходзілі ад прозвішчаў жыхароў (сваякоў з аднолькавым прозвішчам). Кожны двор уяўляў аўтаномную ячэйку, слаба ўвязаную з агульнай структурай пасялення. Жылыя памяшканні звычайна будавалі ў глыбіні двара. Асабліва многа спад-

чынных маёнткаў дробнай шляхты было рассеяна на тэр. Ашмянскага павета. Значнае развіццё саматужнай прамысловасці і гандлю павышала ў рэгіёне ролю мястэчак, якія звычайна выраслі з сёл, што належалі буйным магнатам. Найбольш тыповай для сялянскіх сядзіб была пагонная (аднарадная) сістэма забудовы. Гумны, пуні для сена ставілі на некаторай адлегласці ў канцы сядзібы ці насупраць па другі бок вуліцы. Там жа нярэдка будавалі і свірны, сярод якіх вылучаліся характэрныя для рэгіёна 2-павярховыя лямусы. Бытаванне тут лямусаў мае стараж. традыцыю і па археалагічных матэрыялах вядома з 11 ст. Тыповая планіровачная структура традыцыйнага жылля — хата+сенцы+камора. У пач. 20 ст. яна ўскладнілася вылучэннем функцыянальна самастойнай кухні, спальні, святліцы. Дамы дробнай шляхты мелі падсені ці ганкі (у 2-й пал. 19 ст. іх пачалі будаваць і ў сялянскім жыллі). Нар. архітэктура ў П. прагрэсіравала хутчэй, чым у іншых рэгіёнах, актыўна пераймаючы асобныя зах. канструкцыйныя формы і ўдала перапрацоўваючы іх у спалучэнні з традыцыйнымі. Побач з будаўніцтвам жылля з круглых бярвён, што звязваліся ў просты вугал, у 19 ст. нярэдка сустракаліся будоўлі з брусковых бярвён, рубленых у гладкі (чысты, нямецкі) вугал. Высокія двухсхільныя і паўвальмавыя дахі мелі кроквенную канструкцыю, захавалася і традыцыйная апорная канструкцыя на стаяках і сохах. Дахі крылі саломай («пад шчотку», «пад страхоўку»), гонтай і чарапіцай. Характэрная прыкмета культурных ландшафтаў — прыдарожныя крыжы і капліцы.

Традыцыйнае бел. адзенне ў мясцовым этнагр. матэрыяле захавалася горш, чым у іншых рэгіёнах Беларусі. Стракаты этнасацыяльны склад, параўнаўча развітая сістэма шляхоў зносін павялічвалі кантраст у адзенні і разам з тым садзейнічалі ўзаемнаму ўзбагачэнню. Тыповая верхняя вопратка — бурнос з адкладным каўнярам свабоднага крою і прыталеная світа (сярмяга) з вузкім стаячым каўнярам, сшытая з даматканага шэрага і цёмна-шэрага сукна. Дробная шляхта і дзярж. сяляне замест сярмягі насілі капот з шэрага і шэра-зялёнага сукна. Жанчыны насілі больш кароткую катанку. З іншых тыпаў верхняй вопраткі ў шырокім ужытку былі кажух, палатняны насоў, курта (спанцэрка), жаночы кафтан (каптанік), мужчынская безрукаўка (камізэлька). Звычайны комплекс жаночага адзення складаўся з ільняной кашулі, андарака (або спадніцы), фартуха, гарсэта. Кашулі з прамымі полікамі мелі адкладны каўнер і рукавы з абшлагамі. Стараж. тунікападобная кашуля раней, чым у іншых рэгіёнах, стала споднім адзеннем. Святочныя кашулі і льняныя фартухі ўпрыгожвалі вышыўкай, у якой дамінаваў геаметрычны арнамент; найбольш распаўсюджаная фігура — васьмівугольная зорка, у стылізаванай выяве блізкая да раслінных форм (*ваўкавыска-камянецкі строй*). Гарсэты з цёмнага сукна шылі прыталенымі, часта з надрэзамі ў ніжняй частцы. Чапец (або каптур) нярэдка меў навушнікі і абшываўся па краі чырвонай стужкай, як самастойны ўбор захаваўся да пач. 20 ст., звычайна яго надзявалі замужнія жанчыны на святы (*мастоўскі строй, навагрудскі строй*). Панёманскія ўзорыстыя посцілкі, ручнікі, дываны, абрусы вызначаліся багаццем мастацкіх сродкаў, высокім майстэрствам выканання.

У вытворчасці керамічнага посуду і яго дэкаратыўна-засцерагальнай апрацоўцы задымліванне часта спалучалася з глянцаваннем (гл. ў арт. *Паўночнабеларуская і панямонская кераміка).* Мясцовыя гаворкі П. ўваходзяць у паўд.-зах. дыялект (гл. *Дыялектная мова*). Адзначаныя рысы нар. культуры і гаспадарча-бытавога укладу ў бел. П. прайшлі доўгі шлях развіцця, адлюстраваўшы складаную этнічную гісторыю насельніцтва краю.

*В. С. Цітоў.*



**Паплаўкі** з бяросты.



**Паплаў.**

**ПА́ПАРАЦЬ-КВЕ́ТКА**, купальскае павер'е. Адлюстравала веру стараж. чалавека ў шчасце, яго імкненне пазнаць навакольны свет, таямніцы зямлі. Існуе ў форме легенды. Паводле яе, раз у год, на *купалле*, апоўначы ў лясным гушчары мігатлівым агеньчыкам зацвітае кветка папараці. Хто сарве яе — стане празарліўцам: будзе разумець гаворку дрэў, звяроў, шэпат траў; шчаслівцу адкрыюцца схаваныя ў зямлі скарбы. Лічылася, што П.-к. ахоўваюць, акружаюць розныя пачвары, страшыдлы — увасабленне змрочных сіл. Падсцерагчы П.-к. і сарваць яе можа толькі адважны і сумленны чалавек. Легенда пра П.-к. атрымала шырокае пераасэнсаванне ў літаратуры, мастацтве, музыцы. Да яе звярталіся М. Гоголь, Ю. Крашэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, сацыяльную інтэрпрэтацыю павер'ю даваў Я. Купала. У сучаснай

бел. літаратуры гэту легенду выкарысталі У. Караткевіч (п'еса «Калыска чатырох чараўніц»), І. Козел (аднайменная п'еса) і інш., у музыцы — А. Туранкоў (опера «Кветка шчасця» паводле муз. драмы М. Чарота «На Купалле»). *А. С. Ліс.*

**ПАПЛАВО́К**, частка рыбалоўнай прылады, што прымацоўваецца да верхняй вяроўкі сеткавых снасцей або лёскі вуд для ўтрымання іх на плаву ці на патрэбнай глыбіні. У Паазер'і называлі таксама берасцянка, трубка, на Палессі — поплаў, плавец, плавок, корак, жмака. Для *сетак* і *невадоў* П. выраблялі пераважна з берасты: яе скручвалі ў трубку і замацоўвалі драўлянымі цвікамі. Праз сярэдзіну трубкі працягвалі вяроўку. П. рабілі часам з лёгкіх парод дрэва (ліпы, асіны, вярбы), кары хвоі, чароту. Вудачныя П. часцей выраблялі з птушынага пер'я (пераважна гусінага), радзей — з хваёвай кары, коркаў. Для абазначэння месца, дзе ставілі *пераметы* і стаўныя сеткі, у якасці П. выкарыстоўвалі галінкі, трысцё. У наш час для сетак і невадоў робяць пенапластавыя П., для вудачных П. побач з сінтэтычнымі матэрыяламі ўжываюць і традыцыйныя — гусінае пер'е, кару. *І. М. Браім.*

**ПАПЛА́Ў**, традыцыйная рыбалоўная прылада, прызначаная для лоўлі рыбы, якая аслаблена ад недахопу кіслароду ў зімовай вадзе і сплывае напрадвесні па цячэнню. Называлі таксама вароты, ніць, сзавая сетка. Меў выгляд сеткавага мяшка, прымацаванага да двух шастоў (вузмукаў), якія кольцамі злучаліся з доўгімі тоўстымі каламі (жорасцямі) так, што маглі свабодна рухацца па вертыкалі ўздоўж іх. Каб рыба не магла выйсці з мяшка, унутры яго (пры ўваходзе) прывязвалася сеткавая перагародка (падпона). П. устанаўліваўся ў палонцы пры дапамозе жорасцяў (убіваліся ў дно вадаёма, верхнія канцы апіраліся на лёд.). У рабочым стане ніжняя частка мяшка прыціскалася вузмукамі да дна, а верхняя падтрымлівалася вяроўкамі. Ад мяшка адыходзіла некалькі шнуроў (старажоў), патоpгванне якіх «паведамляла» рыбакам, што ў сетцы ёсць рыба. П. выкарыстоўваліся і разам з *езамі*. Лоўля рыбы П. была пашырана на Палессі, вядома таксама ў Цэнтральнай Беларусі і Падняпроўі.

*І. М. Браім.*

**ПАПЯЛІ́ШЧА**, апошні сумесны пачастунак удзельнікаў вяселля і бліжэйшых суседзяў. Рэгіянальныя назвы хвасты, разграбіны. Адбывалася ў хаце бацькоў маладога пасля *пярэзваў*. Вясельнікі нярэдка свавольнічалі: лавілі ў двары бацькоў або каго-небудзь з вясельнікаў курыцу, разрывалі яе і, асмаліўшы, елі або кідалі ў кіпень жывога пеўня ці парася і таксама пасля елі. Гаспадары частавалі суседзяў, якія прыходзілі забраць пазычаныя на вяселле посуд і мэблю. Згодна са звычаем ім імкнуліся даць якую-небудзь закуску з сабою (адправіць не з пустымі рукамі), каб і надалей у іх доме было ўсяго поўна. Калі хто-небудзь ішоў з іх дому ні з чым, лічылася, што гаспадары не жадаюць таму дабра і багацця. *Л. А. Малаш.*

**ПА́РАБКІ**, 1) адна з назваў *чэлядзі* нявольнай (дворнай) на Беларусі ў 14—16 ст. 2) Наёмныя работнікі з беззямельных сялян, якія працавалі па найму ў феадалаў у фальварках ці на вотчынных прадпрыемствах і ў гаспадарках заможных сялян. Колькасць П. павялічылася ў 18 — 1-й пал. 19 ст. ў сувязі з разлажэннем феадальна-прыгонніцкай сістэмы і пашырэннем маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства. У 1773 у Копыскім графстве з 969 сялянскіх гаспадарак 163 мелі наёмных работнікаў, сярод якіх 108 П. У перыяд капіталізму працэс абеззямельвання сялянства нарастаў і на пач. 20 ст. на Беларусі налічвалася 150 тыс. с.-г. рабочых-П. *П. А. Лойка.*



На **парных дудках** грае музыка з вёскі Лясань Чэрыкаўскага раёна.

**ПАРКА́Н**, 1) тып агароджы з бярвён, закіданых у *шулы*; тое, што і *замёт*. Здаўна вядомы ў сялянскім і местачковым будаўніцтве паўсюдна на Беларусі. Найбольшае пашырэнне меў у зоне бытавання вяночнай забудовы сялянскіх сядзіб (Віцебшчына, Магілёўшчына і паўн. частка Гомельшчыны). Свабодныя прамежкі паміж пабудовамі закідвалі П., утвараючы квадратную ў плане забудову сядзібы. 2) Мураваная агароджа вакол цэркваў, касцёлаў і іншых культавых збудаванняў. *У. С. Гуркоў.*

**ПА́РНЫЯ ДУ́ДКІ**, старажытны духавы музычны інструмент тыпу падоўжанай свістковай флейты. Называлі таксама пасвісцелі, парнёўка, сапілка, гуслі. Складаюцца з дзвюх драўляных дудак рознай даўжыні з трыма ігравымі адтулінамі на кожнай. Тыповы гукарад — сяміступенны, утвараецца дзвюма тэтрахордамі з адным агульным гукам. Гучанне П. д. камернае, светлае, мяккага тэмбру. У час ігры дудкі трымалі пад вуглом. П. д. гучалі на бяседах, хрэсьбінах, вяселлях, калі вадзілі карагоды. Выкарыстоўваліся звычайна як сольны інструмент і для суправаджэння спеваў; часам аб'ядноўваліся ў ансамблі са скрыпкай. На П. д. выконвалі мелодыі лірычных абрадавых і пазаабрадавых песень, радзей танцавальныя. Былі пашыраны на Магілёўшчыне (Крычаўскі, Мсціслаўскі, Хоцімскі, Касцюковіцкі, Краснапольскі, Чавускі, Чэрыкаўскі р-ны). У наш час амаль выйшлі з ужытку. *І. Дз. Назіна.*

**ПА́РНЯ**, пабудова для распаркі драўніны пад абады, санныя палазы, дугі і інш., для надання ёй эластычнасці і гнуткасці. Рабілі П. найчасцей у выглядзе зруба-паўзямлянкі, дзе ставілі печ, вусце якой выходзіла вонкі. Да печы ўладкоўвалі кацёл для вады. У верхніх вянках зруба рабілі аконца, праз якое ў П. на жэрдкі-папярэчыны клалі загатоўкі для абадоў, дуг.



**Парныя дудкі.**

Калі распальвалі печ, аконца закрывалі, замазвалі глінай і ў П. ствараліся неабходныя ўмовы для распаркі драўніны. Часам памяшканне П. і печ будавалі асобна, у гэтым выпадку нагрэтая вільготная пара паступала ў П. па трубе. На Падзвінні і Падняпроўі часта ў якасці П. выкарыстоўвалі лазні і ёўні. Звычайна лазню з пакладзенымі загатоўкамі палілі два разы — пад вечар і назаўтра зранку, пасля чаго распараныя брускі бралі адтуль і гнулі на спецыяльным прыстасаванні — *гбале*. Нярэдка загатоўкі пад дугі і палазы распарвалі і ў хатняй печы. Як спецыяльная прамысловая пабудова П. сустракалася ў сельскай мясцовасці да 1970-х г. *В. С. Цітоў.*

**ПАРО́М**, п е р а в о з, плывучы мост для пераправы людзей і грузаў з аднаго берага ракі на другі. Як спецыфічнае

грузапасажырскае судна вядомы з ранняга сярэднявечча на ўсіх буйных рэках — Дняпры, Прыпяці, Нёмане, Зах. Дзвіне і інш. Складаецца з плывучай апоры і платформы з поручнямі. У якасці апоры служылі 2—3 вялікія выдзеўбаныя лодкі *(дубы, чайкі)*. Упоперак іх клалі дубовыя бэлькі і насцілалі памост з тоўстых дошак, якія прыбівалі цвікамі да бэлек. Часам платформу замацоўвалі на памосце з дубовых дыляў (у гэтым выпадку не было апоры з лодак). Па абодвух баках П. рабілі бар'ер, поручні. Звычайна П. меў плошчу 50—100 м² і мог змясціць 8—10 параконных вазоў. На Тураўшчыне вядомы стараж. тып П. карытападобнай формы, без плывучай апоры. Уз'язджалі на П. і з'язджалі з яго па нахіленых мастках. Рухаўся П. звычайна пры дапамозе каната ці металічнага троса, працягнутага праз блок, замацаваны на бар'еры, і прывязанага да слупоў на абодвух берагах ракі. У веснавую паводку, у час разліву рэк П. кіраваўся доўгімі шастамі (ялінамі) на мелкаводдзі, а на глыбокім фарватэры — з дапамогай вялікага вясла (дрыгаўкі). У Рэчыцкім Палессі лоцману, які кіраваў П., дапамагалі двое рабочых. На Дняпры і Прыпяці ранняй вясной (пасля крыгаходу) ролю П. выконвалі вялікія лодкі (дубы) на вёслах. Напр., чарнабыльскі дуб (даўж. да 12 м, шырыня да 2 м) мог адначасова перавезці 1—2 гружаныя фурманкі з конямі. У 19 — пач. 20 ст. П. трымалі перавозчыкі за пэўную плату, якую бралі грашыма, збожжам і інш. Паромныя пераправы існуюць і ў наш час, але П. значна ўдасканалены: апорамі служаць металічныя пантоны, рух ажыццяўляецца з дапамогай цягачоў (кацераў). Зрэдку захаваліся і традыцыйныя П. на металічных лодках і з тросам на блоку. *Н. І. Буракоўская.*

**ПАРТАЧЫ́**, рамеснікі на Беларусі канца 16—18 ст., якія не ўваходзілі ў *цэхі рамеснікаў*. Тэрмін П. набыў адценне мянушкі, якая трэціравала такога рамесніка. Вырабы П., выкананыя без прытрымкі нарматываў цэхавых статутаў, лічыліся горшымі па якасці, майстэрству, кваліфікацыі за вырабы цэхавых майстроў.

**ПАРУБО́ЦКАЯ ГРАМАДА́** (ад укр. парубок — хлопец, халасцяк), аб'яднанне, саюз нежанатай вясковай моладзі на ПдЗ Беларусі і на Украіне; перажытак старадаўніх мужчынскіх саюзаў, у якім зберагліся сляды першабытнага калектывізму. Існавала да пач. 20 ст. У П. г. прымалі хлопцаў з 17—18-гадовага ўзросту. Унутры саюза існавалі звычаі і няпісаныя правілы паводзін у адносінах да сваіх сяброў і дзяўчат-аднавясковак. За ўступленне ў П. г. браўся невялікі грашовы ўзнос. Мела агульную касу, выбарнага атамана, месца зборышчаў (на вуліцы, ігрышчах, вячорках). Адыгрывала пэўную ролю ў грамадскім жыцці дарэвалюцыйнай вёскі, карысталася прызнаннем бацькоў, сельскай грамады.

**ПАРУ́ШНІЦКІ ЛЕ́МЕЗ**, *умоўная мова* шклоўскіх шаўцоў і шапавалаў. Бытаваў у мястэчку Шклоў Магілёўскага павета. Лексічны склад па запісах Е. Р. Раманава налічвае 651 слова і ахоплівае 13 паняційных груп. Большасць паняццяў абазначалася агульнаўжывальнымі бел. словамі, зацемненымі ўстаўкамі-прыстаўкамі «ку-» («кувесна» — вясна, «кубалота» — балота), «шу-» («шугара» — гара), суфіксамі «-он» («сватон» — сват, «грехон» — грэх), «-ош» («дымош» — дым, «писарош» — пісар), «-ник» («лабушник» — музыкант, «кувезник» —каваль). Большасць прыметнікаў утворана пры дапамозе суфіксаў «-имн-», «-омн-» («горкомный» — горкі, «худимный» — худы). З назваў дзён тыдня зарэгістраваны толькі субота («субантюк») і нядзеля («дэушница»). Адным словам маглі абазначацца некалькі паняццяў («сивор» — снег, лёд, град, мароз, мяцеліца). Невялікая колькасць слоў з інш. моў (з грэч. «кресо» — мяса; з лац. «дэус» — сонца, бог; з татарск. «басаць» — рэзаць). Частка слоў — вузкія дыялектызмы («лох» — мужык). У лексіцы 168 слоў агульныя з *катрушніцкім лемезнем* (што паказвае на агульнасць паходжання). Граматыка і сінтаксіс П. л. — беларускія (напр., «угу́ръ чу́зу ховбовъ» — дай мне грошай, «чузо́вский збрагъ хима́еть» — мой брат хварэе). Фальклорных твораў на П. л. не зафіксавана. *Г. К. Усціновіч.*



Парня.

**ПАРЦЭЛЯ́ЦЫЯ** (ад франц. parcelle часцінка), раздрабленне зямельных надзелаў. У бурж. Польшчы, у т. л. ў Зах. Беларусі, дзе панавала буйное памешчыцкае землеўладанне, П. называлі разбіўку дзяржаўных, памешчыцкіх і т. зв. кінутых (землі бежанцаў, якія не вярнуліся на радзіму) зямель на дробныя ўчасткі (парцэлы, ад 2 да 20 га) і продаж іх праз дзярж. банк. Адно з мерапрыемстваў аграрнай рэформы бурж. Польшчы ў 1920—30-я г. Асноўная мэта П.— узмацніць сац. апору польскай бурж. дзяржавы на вёсцы — кулака. Праводзілася паралельна з *камасацыяй, асадніцтвам* і ліквідацыяй *сервітутаў* на аснове законаў «Пра надзяленне зямлёй салдат польскай арміі» (1920) і «Пра парцэляцыю, камасацыю і асадніцтва» (1925). У Зах. Беларусі правядзенне П. пачалося ў 1921, мела каланізатарскі характар. Польскі бурж. ўрад выкарыстаў П. для насаджэння на захопленых землях Зах. Беларусі і Зах. Украіны польскіх ваенных каланістаў — *асаднікаў* і ўмацавання мясцовага кулацтва, захаваўшы ў асноўным памешчыцкае землеўладанне. Прыкрываючыся П., памешчыкі прадавалі горшыя землі па спекулятыўных (т. зв. рыначных) цэнах. Такая прыватная П. ў народзе наз. «дзікай» П. На працягу 1921—25 у Зах. Беларусі штогод прадавалася каля 25 тыс. га дзяржаўных і 27 тыс. га памешчыцкіх зямель. Да 1934 распарцэлявана каля 600 тыс. га (каля 20 % памешчыцкіх зямель). Каля 80 % з іх трапіла ў рукі кулакоў і асаднікаў. Сяляне Зах. Беларусі выступалі супраць такой аграрнай рэформы, у т. л. супраць П. ў падобным варыянце. *І. П. Хайратовіч.*

**ПАС**, *плыт*, звёны якога вязаліся з доўгіх бярвён. Даўжыня П. 100—150 м. На Прыпяці П. складаўся з некалькіх гонак даўжынёй каля 30 м. Па Цне, Смердзі сплаўлялі П. невялікіх памераў з 3—5 звёнаў. П. называлі таксама плыт з дубовай клёпкай, які складаўся з 8—10 звёнаў. Клёпку ўкладвалі ў 8—10 радоў на двух брусах даўжынёй 6—8 м; 8 такіх плытоў складалі П. Плытагон на П. называўся *пасаўнікам*. *Н. І. Буракоўская.*

**ПАС**, скураны або плецены, тканы, вітая з нітак доўгая вузкая стужка для падпярэзвання; тое, што і *пояс*.

**ПАСА́Г**, маёмасць і грошы, што давалі бацькі або родныя маладой, калі яна выходзіла замуж. Раней жаніх даваў за маладую выкуп яе бацькам, а з сабой маладая брала толькі свае асабістыя рэчы. Пазней бацькі і родныя маладой пачалі даваць скаціну, лён, а ў 2-й пал. 19 ст. больш заможныя бацькі ў якасці П. давалі зямельны надзел і грошы. П. з'яўляўся пажыццёвай уласнасцю нявесткі, і ў выпадку падзелу гаспадаркі паміж яе членамі яна магла забраць усё, што ўнесла ў форме П. ў сям'ю мужа. Папярэдняя размова пра П. пачыналася ў час *сватання*, але насіла жартаўліва-гумарыстычны характар (канкрэтнае дамаўленне пра П. магло навесці на думку, што хлопец зацікаўлены толькі багаццем дзяўчыны). Канчаткова пра П. дамаўляліся на *запоінах*, пры гэтым удзельнічалі звычайна бацькі маладых і сваякі нявесты, якія мелі права ўключацца ў размову і ўносіць свае прапановы. Ад памеру П. залежала становішча маладой у новай сям'і, і тым не менш яе бацькі заўсёды стараліся «вытаргаваць» як мага меншы П. Здараліся выпадкі, калі бацькі дзяўчыны пасля вяселля не давалі абяцанага П., што ў народзе лічылася ганебным учынкам. Часам, калі цесць аказваўся неплацежаздольным, яго сваякі або суседзі пазычалі яму. У нека-

торых выпадках бацькі маладой і яе мужа дамаўляліся пра адтэрміноўку П. Рыхтаваць П. пачыналі з самага маленства дзяўчыны, бо акрамя шматлікіх дароў для сваякоў, у склад П. ўваходзіла бялізна і верхняя вопратка для жаніха, адзенне для самой нявесты, пасцель, падушкі, коўдры, дзяружкі, дываны і інш. (усё гэта трэба было зрабіць сваімі рукамі). Маладая брала з сабой таксама прасніцу, верацёны, цернiцу, качалку, трапалку, кросны, міску і дзве лыжкі. Бацькі стараліся даць нявесце па магчымасці карову, авечку, свінню. П. менш заможнай нявесты складаўся з яе асабістых рэчаў, якія змяшчаліся ў кубле (куфры). У некаторых мясцовасцях гэта называлася прыданым, а скаціна, зямельны надзел, грошы і да т. п.— П. *Л. А. Малаш.*

**ПАСА́Д**, гандлёва-рамесная частка феадальнага горада ў 10—18 ст. Размяшчаўся побач з *дзядзінцам*, звычайна на беразе ракі. У П. жылі пераважна рамеснікі і купцы, тут адбываўся гандаль. П. мелі ўсе гарады Беларусі. У Полацку ў 16 ст. было 6 П. (Вялікі, Заполацкі, Крыўцоў і інш.) агульнай плошчай больш за 100 га.

**ПАСА́Д**, азін з самых старадаўніх вясельных абрадаў; саджанне жаніха і нявесты на дзяжу, пакрытую вывернутым кажухом (пазней падушкай або ручніком). Абрад захаваў рэшткі язычніцкай рэлігіі стараж. славян: пакланенне культу хатняга ачага, духам продкаў, богу пладавітасці і земляробства. Галоўны сэнс абраду П.— забяспечыць багацце (ураджай) і шчасце (шматлікае патомства) будучай сям'і, таму лічылася абавязковым дакладнае выкананне ўсіх рытуалаў ў ўстаноўленым звычаем парадку. Удаўца (удаву), цяжарную жанчыну або тую, якая мела няшлюбнае дзіця, на П. не саджалі. Калі малады і маладая страцілі цнатлівасць, іх саджалі не на дзяжу, пакрытую кажухом, а на голую калодку ці зэдлік. Згодна з павер'ем, калі які-небудзь з гэтых звычаяў парушаўся, маладых у будучым чакала няшчасце. П. у складзе *вяселля* выступаў як самастойны абрад, які ў некаторых выпадках звязваўся з абрадамі *звядзення* маладых, *завівання* маладой і інш. Вызначаюцца тры тыпы П., якія адрозніваюцца рытуалам і пэўным значэннем: П. маладой і маладога (кожнага асобна) перад шлюбам; іх сумесны П. пасля вянчання ў сувязі з абрадам звядзення; П. маладых у розныя часы: у час завівання, а таксама на *заручынах*, у *суборную суботу* і ў час сустрэчы маладых пасля шлюбу (толькі ў некаторых рэгіёнах Беларусі). Перад шлюбам і ў суборную суботу П. сімвалізаваў прызнанне сталасці маладых і іх здольнасць як членаў грамадства стварыць новую сям'ю. Сумесны П. у час звядзення ўзаконьваў шлюб у прысутнасці ўсяго роду. П. маладой у час завівання абазначаў змену яе дзявоцкага стану на жаночы. Усе тыпы П. мелі і магічнае, і сацыяльна-прававое значэнне.

П. ж а н і х а, які характэрны толькі для бел. вясельнай абраднасці, адбываўся ўвечары напярэдадні шлюбу або ўдзень перад ад'ездам маладога да маладой, каб разам з ёю ехаць да вянца. Сабраўшы дружыну, малады прасіў яе благаслення на П. і на выпраўленне да шлюбу. Пасля частавання ў доме маладога вясельнікі выходзілі з-за стала, ставілі пасярод хаты дзяжу. У некаторых выпадках месцам П. выбіралі лаву каля сцяны або зэдлік пасярод хаты (часам бочку з жытам). Дружко (дружок), трымаючы адзін канец ручніка (хусткі), а другі падаўшы жаніху, тройчы абводзіў яго па ходу сонца вакол дзяжы. Брат двойчы прымушаў маладога сесці на дзяжу, але той супраціўляўся і садзіўся на яе толькі за трэцім разам. Пад ногі яму ставілі пасудзіну з жытам, калі ён прызнаваўся, што варты гэтага (у іншым выпадку яго саджалі на голую калодку). Затым маладому часалі валасы, змазваючы грэбень мёдам ці маслам (пачынала часаць яго маці або сястра, а потым астатнія родзічы па ступені сваяцтва). У Вілейскім пав. маладому клалі на галаву накрыж дзве пасмы льну, пярсцёнак і крыху мёду. Старэйшая сястра або сваха запальвала свечку, тройчы дакраналася мезенцам да мёду і вуснаў жаніха і застрыгала яго. Падышоўшы да жаніха з правага боку (а потым з левага, ззаду і спераду), яна працягвала кончыкі пасмаў ільну з валасамі праз пярсцёнак і падсмальвала іх свечкай, папярэдне просячы на гэта благаславення. Седзячы на П., малады трымаў у руках кубачак з вадой, а пад пахай булачку (шышку) з каравайнага цеста або лустачку хлеба з соллю. Дружко прасіў прысутных благаславіць застрыгчы маладому «косы». Часам цырымонія застрыгання заканчвалася лёгкім засмальваннем валасоў грамнічнай свечкай, агонь для запальвання якой выкрасалі за адзін раз (валасы засмальвалі крыжам над ілбом, на патыліцы і каля вушэй). Зрэдку застрыганне маладога пачынала маці. Пасля гэтага яна абдымала сына і прышпільвала яму справа на світку пучок руты, перавязаны белай стужкай (Ваўкавыскі пав.). У час П. маладога перапівалі, аднак ён сам удзелу ў гэтым не прымаў, бо да вянца павінен быў ехаць нашча. Устаўшы з П. (яго падымаў брат), малады кланяўся бацькам, якія благаслаўлялі яго хлебам-соллю і абразом у дарогу да маладой, і ўсім прысутным. У старажытнасці абрад застрыгання на П. не адносіўся да ліку вясельных, а быў папярэднім выпрабаваннем маладога на права ўступлення ў шлюб.

П. н я в е с т ы перад вянцом больш распаўсюджаны, чым П. жаніха, і праходзіў больш урачыста. Пасля таго, як дружкі прыбяруць нявесту, брат вёў яе на П. Да рукі маладой прывязвалі доўгі ручнік, адмыслова вытканы і вышыты нявестай, які па дарозе на П. павінен быў замятаць сцежку, сімвалізуючы светлы шлях у жыцці маладой, яе шчаслівы лёс. На Слонімшчыне заводчык (брат маладой) або заводчыца (сястра, цётка маладой) абводзілі маладую тройчы па лавах, што стаялі ўздоўж сцен, а затым саджалі на П. Было і так, што сяброўкі прыбіралі маладую ў каморы і адтуль яе ўрачыста выводзілі. Першым выходзіў сват з кветкай (або сваццця са свечкай), за ім скрыпач, потым заводчык (заводчыца) з маладой, трымаючыся за канцы ручніка, і апошнімі дружка і яе сяброўкі. Падышоўшы да парога, сват затрымліваў усіх, а сам уваходзіў у хату і зачыняў за сабой дзверы, вітаў усіх сабраных і тройчы прасіў у іх дазволу пасадзіць маладую на П. і благаславіць. Атрымаўшы дазвол, сват адчыняў дзверы і ўводзіў у хату маладую. Малады ў гэты час стаяў у сенцах або на двары і чакаў заканчэння П. (яму забаранялася прысутнічаць на П.). Маладая, трымаючыся з заводчыкам за канцы ручніка, ішла за сватам, які нёс кветку (у некаторых мясцовасцях — бізун і каравай), тройчы абходзіла вакол стала, кланялася і цалавала кожнага з прысутных. Пасля гэтага маладую садзілі на дзяжу з расчыненым караваем і пакрытую падушкай. Калі ў бацькі маладой былі пчолы, маладую саджалі на засланы кажухом вулей, што павінна было садзейнічаць раенню пчол. Маладую, не захаваўшую дзявоцкасць, саджалі на голую ражку. На П. маладую садзіў заводчык або бацька: двойчы яна не згаджалася садзіцца і толькі за трэцім разам садзілася. Сенцы, праз якія вялі прыбраную маладую, высцілалі палатном, посцілкамі, што надавала ўрачыстасць моманту і служыла адным са сродкаў зычэння маладой багацця. На П. брат маладой расплятаў ёй касу, якую напярэдадні (у суборную суботу) у апошні раз заплялі сяброўкі, расчэсваў касу, памачыўшы грэбень у мёд ці масла, і, аддаўшы каснікі сястры, падсмальваў нявесце валасы (гэты абрад азначаў пераход маладой у жаночы стан). Закончыўшы часанне, грэбень закідвалі на печ. У некаторых мясцовасцях пасля часання і падсмальвання валасоў маладой дружкі ўбіралі яе вянком з кветак, зелянiны, стужак-каснікоў, а на сярэдзіну галавы маці прымацоўвала маленькі руцяны вяночак і пакрывала ёй галаву наміткай, а часам (пераважна на Пн Беларусі) дружок маладога накрываў маладую прыгожай чырвонай або разнаколернай хусткай (гл. *Пакрыванне*). Бывала і так, што маладую прыбіралі яшчэ ў каморы і з прыбранай галавой вялі на П. (Мінскі пав.). У розных рэгіёнах Беларусі элементы абраду П. вар'іраваліся. Напрыклад, перад П. дружкі, танцуючы з дзяжою, уносілі яе ў хату, ставілі каля стала, клалі ў яе маленькую булачку хлеба, накрывалі вывернутым кажухом, радзюжкай, складзенай у 4 столкі, а потым і абрусам. Маладую на П. вёў брат, а побач ішла сваццця і несла 2 запаленыя свечкі, уваткну-

тыя ў зрэзаны з буханкі хлеба верх. Традыцыйным зваротам да прысутных брат прасіў благаславення, абводзіў тройчы нявесту вакол дзяжы. Маладая кланялася бацькам, якія сядзелі на зэдліку перад сталом (маці трымала абраз, накрыты ручніком, а бацька — бохан хлеба), потым — дзежцы, клала чырвоную стужку накрыж на абрус і садзілася на П. па просьбе брата толькі за трэцім разам. На калені маладой клалі піражок, соль і шматок воўны (у Лепельскім, Барысаўскім і інш. паветах замест воўны маладая трымала галінку). Нявесце давалі ў рукі кубачак вады або ставілі яго на падлогу. Брат расчэсваў і падсмальваў нявесце валасы, а потым падымаў яе з П. і падводзіў да бацькоў, якія благаслаўлялі яе, а яна цалавала ім рукі. Пасля гэтага брат садзіў нявесту на падушку за стол разам з дружкамі, а малады і яго бяседа ўваходзілі ў хату і садзіліся на зэдлік, дзе раней сядзелі бацькі. Дзяўчаты падбягалі да дзежкі і скідалі з яе усё ў парог, саму дзежку кацілі ў сені, а хлопцы стараліся перахапіць яе і закінуць на печ (каб дзеўкі не хутка выходзілі замуж).

Сумесны П. маладога і маладой адбываўся ў час заручын, калі маладых у хаце нявесты саджалі на кажух роду маладой, што азначала прынянцце жаніха ў род нявесты і іх яднанне (у хаце маладога маладыя таксама садзіліся на П., накрыты кажухом яго роду). Найбольш рытуальна насычаным быў сумесны П. у час абраду звядзення маладых у доме нявесты: маладыя сядзелі на лаве, пакрытай вывернутым кажухом, або на падушцы, а пад нагамі ў іх стаяў кошык з зернем. Маладых звязвалі каляровым поясам або наміткай, а другой наміткай пакрывалі зверху. На ПдЗ Беларусі над лавай, дзе сядзелі маладыя, на трох калочках намітку вешалі ў выглядзе балдахіна.

Абрад П. выконваўся і ў час завівання маладой у суборную суботу, калі сяброўкі апошні раз заплаталі маладой касу, і інш., аднак ён з'яўляўся толькі элементам асноўнага абраду і не суправаджаўся вялікім цырыманіялам.

*Л. А. Малаш.*

**ПАСАЎНІКІ**, *плытагоны* на *пасе*. Лакальная назва пасавы. П. называліся таксама бурлакі, якія цягнулі плытыпасы на Дняпроўска-Бугскім канале. Пас даўжынёю каля 100 м цягнулі 15—30 П. або 4 пары коней.

**ПАСЕКА**, месца сталага ці часовага размяшчэння ў лесе, садзе, полі вулляў рознага тыпу і канструкцыі. Называлі таксама пчальнік, пчэльня. На лясных П. ставіўся будан ці курэнь для пасечніка, паветка або невялікая хатка для пчалярскіх прылад. Пад П. выбіралі роўнае, сухое і зацішнае месца, багатае медадайнымі раслінамі, звычайна побач з невялічкай рачулкай, крынічкай ці стаўком. Прысядзібную П. абгароджвалі плотам, абсаджвалі дрэвамі і кустамі. П. называлі таксама выкарчаваную дзялянку лесу або поле на месцы выкарчаванага лесу. *С. Ф. Цярохін.*

**ПАСМА**, адзінка вымярэння шырыні будучай тканіны. Адна П. роўна 10 чыссленкам (30 ніткам). Колькасць П. вызначалася якасцю пражы — чым танчэйшая пража, тым больш П. і наадварот.

**ПАСТАЛЫ**, п о р ш н і, старадаўні скураны абутак накшталт лапцей. Лакальная назва хадакі. Шылі з кавалка (радзей двух) ялавай або свіной сырамятнай скуры, мацавалі вакол ступні аборамі. Святочныя П. аздаблялі вышыўкай. Бытавалі амаль па ўсёй Беларусі. Часта П. называлі лапці, падшытыя скурай, а на ПдЗ Беларусі — лыкавыя лапці. Рэшткі П. знойдзены пры раскопках стараж. Брэста (11—13 ст.) і Мінска (12—13 ст.). Бытавалі да пач. 20 ст. У археалогіі П. найчасцей называюць поршнямі.

**ПАСТАЎ**, верхні і ніжні камяні *жорнаў*, *ветрака* ці *млына вадзянога*. Млыны звычайна будавалі на 1 П. Нярэдка шатровыя ветракі і млыны на паўнаводных рэках будавалі на 2 П. Млыны паравыя і вадзяныя з турбінай замест вадзянога кола маглі мець 3—4 П. з крупадзёркай і вальцоўкай.

**ПАСТАЎСКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны 23.1.1974 у Паставах. Адкрыты 26.2.1976. Мае 6 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 155 м²), 3,4 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: прыроды, гісторыі дасав. перыяду, Вял. Айч. вайны, пасляваеннае сацыялістычнае будаўніцтва. У экспазіцыі матэрыялы археалагічных раскопак на тэр. р-на, фотаздымкі пабудоў А. Тызенгаўза 18 ст., прылады працы і побыту сялян часоў прыгонніцтва (драўляныя вілы, калаўроты, церніца, верацяно, набіліцы, бёрда, трапло, ручная веялка, прасніца, жорны, калатоўка, кораб, рэшата, ступа, калыска, бойка, качалкі, лубка, сальніца, качарга, рэшата, лапці і інш.), матэрыялы пра падзеі Айч. вайны 1812, 1-й сусветнай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, пра барацьбу працоўных краю за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў часы панавання буржуазнай Польшчы, пра партызанскі рух у Вял. Айч. вайну, развіццё ў раёне нар. гаспадаркі, культуры, асветы. *Л. Ц. Валетка.*

**ПАСТРОНКІ**, вяроўкі ці раменныя пасы ў *вупражы*, што служаць непасрэдна для сувязі цяглавай жывёлы з транспартным сродкам або ворыўнай прыладай. Пярэднімі канцамі П. мацуюць да хамута (ярма, шляі), заднімі — да барка, злучанага з транспартным сродкам. Ужываюцца да нашага часу ў сялянскай гаспадарцы, з'яўляючыся адметнай рысай хамутна-пастромачнай і ярэмнай запрэжак. *В. С. Цітоў.*

**«ПАСТУХ»**, імправізаваны танец. Бытуе ў сольным варыянце. Танцор, што выконвае партыю пастуха, сродкамі танца расказвае, як згубіў карову, як яе шукаў і перажываў страту; а калі знаходзіў, ад радасці пускаўся ў скокі, вытвараючы нагамі разнастайныя каленцы. «П.» можна назваць своеасаблівай нар. харэаграфічнай мініяцюрай, у якой праяўляюцца выдумка, знаходлівасць выканаўцы. Музычнае суправаджэнне, як і харэаграфія, мае імправізаваны характар: аднак павінна адпавядаць харэаграфічнаму дзеянню. Музыкант на сваім інструменце імітаваў гук пастухоўскага ражка і рыканне каровы. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у в. Ботава Пінскага раёна.

*А. Л. Варламаў.*

**«ПАСУ, ПАСУ АВЕЧАЧКІ»**, дзіцячая гульня. У ёй удзельнічае некалькі дзяцей. Яны выконваюць ролі пастушка, авечак, бабулі, ваўка і сабак. Каб размеркаваць, каму кім быць, праводзяць жараб'ёўку на кійку: хто-небудзь трымае яго за адзін канец вертыкальна ў руцэ, астатнія па чарзе бяруцца за кіёк зверху над рукой папярэдняга. Той, хто апошні возьмецца за канец кійка зверху, застаецца «пастушком», «ваўком» ці інш. персанажам гульні. Пасля гэтага «пастушок» з кійком ходзіць вакол «авечак», стукае ім па падлозе і ў такт ціхенька пяе: «Пасу, пасу авечачкі, // Каля быстрай рэчачкі. // Воўк за гарой, я за другой. // Пайду да бабы капусткі з'есці». «Воўк», «бабуля» і «сабака» знаходзяцца асобна. Прыходзіць «пастушок» да «бабулі» і просіць: «Бабуля, бабуля, дай капусткі з'есці!». Пакуль тая яго частуе, «воўк» адганяе «авечак» у вядомае толькі яму месца, а сам вяртаецца ў схованку, якую ведае «пастушок». Ён жа, не застаўшы «авечак» на месцы, пачынае іх шукаць і калі не знаходзіць, прыходзіць да «ваўка» і кажа: «Воўча, воўча, прашу ў лазню». А той пытаецца: «А якія дровы?».— «Хваёвыя»,— адказвае «пастушок».— «Надта ж смалой смярдзяць».— «Тады прынясу яловых».— «Яловыя моцна трашчаць».— «Дык можа бярозавых?» — «Бярозавыя дзёгцем пахнуць».— «Тады асінавых?» — «З асінавых дым горкі».— «Ёсць і альховыя».— «Во, альховыя я люблю, толькі каб сухія». Потым «воўк» цікавіцца, адкуль будуць браць ваду для лазні, якое будзе мыла, ручнікі і венікі. «Пастушок» пералічвае, а калі «воўк» прызнаваў нешта добрым, то загадваў рыхтаваць лазню. «Пастушок» ішоў, потым вяртаўся і паведамляў, што лазня гатова. Паміж імі пачынаўся дыялог: «А дзе твае сабакі?» «Дома».— «А ці моцна прывязаны?» — «Моцна».— «А на чым прывязаны?» Калі «пастушок» скажа, што на вяроўцы, яму давядзецца схадзіць і навязаць «сабак» на ланцуг. А калі скажа, што на ланцугу, «воўк» згодны — ідзе ў лазню і пачынае мыцца. Чмыхае, пырхае, а пасля пытаецца: «А чаму веніка няма?». «Пастушок» ідзе нібыта па венік, а на самой справе адвязвае «сабак» і крычыць: «Шарко, Бялко, кусіце зладзюгу!». «Сабакі» кідаюцца на шкодніка, тузаюць яго, а «пастушок» дубасіць «ваўка» кійком і прыгаворвае: «Цяпер ты ўжо скажаш, дзе мае авечачкі». «Воўк» про-

сіцца, каб яго адпусцілі, абяцае, што пакажа, дзе схаваны «авечкі» і больш ніколі не будзе іх чапаць.

*В. Дз. Ліцвінка.*

**ПА́СЫНАК**, народны сын, сын ад папярэдняй жонкі ў адносінах да *мачахі* ці сын ад папярэдняга мужа ў адносінах да *айчыма*. Тэрмін толькі ўсходнеславянскі.

**ПАТА́Ш** (галанд. potasch гаршковы попел), шчолачная соль (вугляклісы калій, $K_2CO_3$), атрыманая з раслінная попелу. Выкарыстоўваўся для вырабу шкла, мыла, фаянсавай палівы, мыцця воўны, ачысткі сукна, адбельвання і фарбавання тканін, у кандытарскай вытворчасці, фармацэўтычнай справе і інш. Паводле гістарычных крыніц, вытворчасць П. на Беларусі атрымала развіццё да 15 ст. На зах. рынках рускі і бел. П. лічыўся адным з лепшых па якасці. Экспарт П. з Падняпроўя і Палесся ў Зах Еўропу, гал. чынам у Англію і Галандыю, дасягнуў у 16—18 ст. значных памераў. Так, у 1780—83 з брэсцкай і гродзенскай эканомій прададзена П. ў Крулявец, Гданьск, Эльблонг,, Мемель на 312 тыс. злотых. Ішоў ён і на патрэбы мясцовых мануфактур. І. І. Ляпёхін у час падарожжа па Беларусі ў 1773 сустракаў паташныя промыслы ў многіх мясцінах, у прыватнасці ў Мсціслаўскай правінцыі. У канцы 18—1-й пал. 19 ст. *паташні* (буды) дзейнічалі пераважна ў Мінскай і Магілёўскай губ. (Чачэрскае і Прапойскае старостввы, Крычаўскае, Быхаўскае, Любавіцкае, Лоеўскае графствы, маёнткі ў Барысаўскім, Рэчыцкім, Мазырскім, Да́выд-Гарадоцкім, Пінскім пав.). Яны належалі князям Радзівілам, Любамірскім, графам Патоцкаму, Салагубу, прынцу Вюртэмбергскаму, памешчыкам Горвату, Дабрынскаму, Славінскаму і інш. Паводле няпоўных звестак афіцыйнай статыстыкі, у 1800—05 на Беларусі дзейнічалі 83 паташныя мануфактуры (у Мінскай губ.— 74, у Віцебскай —9; па Магілёўскай і Гродзенскай губ. звесткі не прыведзены), а ўсяго ў Расіі — 245. Дробныя буды, якія не ўваходзілі ў «род фабрык», пад афіцыйны ўлік не падпадалі. Згодна са справаздачамі мінскага губернатара за 1804—10, у Мінскай губ. штогод выраблялася 50—60 тыс. пудоў П.; у 1818 у Мінскай губ. выварана 19 080 бочак П. (усяго ў Расіі — 200 021 бочка). Пра геагр. пашырэнне паташнага промыслу на Беларусі сведчылі звесткі тапанімікі: шэраг вёсак у 19 ст. мелі назвы Буда, Буда Паташова, Паташня.

Уладальнікі паташняў выкарыстоўвалі пераважна працу прыгонных сялян. Але з сярэдзіны 18 ст. на буйных будах назіраецца тэндэнцыя да замены паншчыны вольным наймам. Сыравінай для вытворчасці П. служыў драўняны попел хваёвых і лісцевых парод дрэў, зрэдку — травяны (з папараці ці інш. травы). Выпальвалі попел у ямах, *кучах*, печах пераважна з павалу, хмызняку, галля, кары дрэў. У 2-й пал. 19 ст. ў Зах. Еўропе і Расіі пачалі вырабляць мінеральны П. з калійных солей; на Беларусі ён не атрымаў пашырэння. Таварны П. вельмі гіграскапічны, таму яго зашпунтоўвалі ў бочках. Па якасці ён быў двух гатункаў: лепшы — ардаш, перлаш і горшы — вейдаш, смальчуг. З развіццём фабрычнай вытворчасці і змяншэннем колькасці лясоў паташная вытворчасць паступова занепадала. На Беларусі традыцыйны паташны промысел знік на пач. 20 ст.

*Н. І. Бураноўская.*

**ПАТА́ШНІКІ**, рабочыя на *паташнях* (будах) — прадпрыемствах па вытворчасці *паташу*. Падзяляліся на шэраг прафесій, з іх асноўныя — папеляры (выпальвалі попел у ямах, *кучах*), клёпачнікі (нарыхтоўвалі клёпкі), карытнікі (вышчалочвалі попел у карытах, чанах), палівачы [выпарвалі шчолак (луг) у печы-гарце] і дапаможныя — возчыкі,конюхі, кавалі, бондары, цагельнікі і інш. Існавала і агульная назва рабочых на паташнях — *буднікі.*

*Н. І. Бураноўская.*

**ПАТА́ШНЯ**, буда, прадпрыемства па вытворчасці *паташу*. Размяшчалася звычайна ў лесе і дзейнічала ўвесь год. На П. існаваў прафесійны падзел працы, таму даследчыкі адносяць іх да пачатковай формы вотчыннай мануфактуры. Рабочыя *(паташнікі)* жылі ў паўзямлянках або ў бліжэйшых вёсках. Вытворчы працэс уключаў аперацыі: вышчалочванне попелу, выпарванне шчолаку (лугу), гартаванне (ачыстку) паташу. Да сярэдзіны 18 ст. на Беларусі бытаваў т. зв. гартавы спосаб вырабу паташу. Для яго характэрна размяшчэнне вытворчага ўчастка на вольным паветры. Паташная печ (горан, гарт) уяўляла сабой вялікі цагляны ачаг без паднябення, куды клалі некалькі радоў плашак і падпальвалі іх. Падпаленую шчапу палівалі шчолакам, які атрымлівалі шляхам вышчалочвання попелу вадой. У выніку выпарвання шчолаку над агнём на дне печы асядаў буры парашок — паташ-сырэц. У 2-й пал. 18 ст. паявіўся больш дасканалы катлавы спосаб. Абсталяванне пачалі размяшчаць у памяшканнях, удасканалілася тэхналогія. У 19 ст. П. мела некалькі аддзяленняў. Вышчалочванне попелу выконвалася ў кадоўні ў драўляных чанах (кадзях, бочках, карытах), якія размяшчаліся ў 2 (або два падвойныя) рады з праходам паміж імі. Вада ў чаны з попелам паступала па драўляным жолабе. Вышчалочванне рабілася тройчы па некалькі гадзін (ад 10 да 2). Чаны мелі падвойнае дно, у верхнім рабілі адну ці некалькі адтулін. Каб попел не забіваў адтулін, дно накрывалі саломай, пляцёнкай з лазы, рагожай ці грубай палатнянай тканінай. Праз трубку ў бакавой адтуліне шчолак сцякаў у прыёмнік (укапаную ў зямлю высокую бочку). Атрыманы экстракт з прыёмніка паступаў у кацельню — катлы, умазаныя ў чарэнь 4-кутнай печы. Шчолак у катлах навагравалі да кіпення і выпарвалі, пакуль не атрымлівалі паташ-сырэц. У гартоўні сыры паташ гартавалі ў 4-кутнай печы з паднябеннем на працягу 6 гадзін, у выніку выдаляліся рэшткі вільгаці і фарбавальныя рэчывы. Ачышчаны паташ — парашок белага колеру — у зашпунтаваных бочках захоўвалі на складзе.

*Н. І. Бураноўская.*

**ПАТРАНІ́МІЯ** (грэч. patrōnymia найменне па бацьку ад patēr бацька + + ónyma імя), форма грамадскай арганізацыі, характэрная пераважна для патрыярхальна-родавага ладу. Часта захоўвалася ў класавым грамадстве. П. ўяўляе сабою групу сваяцкіх вялікіх ці малых сем'яў, якія ўзніклі ў выніку чляненния адной вял. патрыярхальнай сям'і, захавалі пэўнае гаспадарчае, грамадскае, ідэалагічнае адзінства і складалі асобнае паселішча ці яго частку. Апошнія, як і сама П., звычайна мелі наз. па імю продка-заснавальніка. У Вял. кн. Літоўскім, асабліва на Палессі, у 13—16 ст. патранімічная была частка дварышчаў, дзе жылі родзічы, якія мелі адно найменне і калектыўна валодалі зямельным участкам. На Беларусі былі пашыраны асобныя звычаі патранімічнага паходжання, у прыватнасці *сябрына, бонда.* Некаторыя з гэтых звычаяў, напр., бонда, часткова захаваліся да нашага часу. Патранімічную назву мае шэраг паселішчаў (Пятровічы, Міхайлавічы, Сямёнавічы, Дзмітравічы і інш.).

*М. Ф. Піліпенка.*

**ПАЎЛО́ЎСКАЯ** Лізавета Іванаўна (1830, Магілёў — 1915), збіральніца беларускіх народных песень. Скончыла Магілёўскую гімназію. Жыла ў в. Фёдараўка (Рагачоўскі р-н). Склала зб. «Народныя беларускія песні» (выд. ў 1853 на рус. мове ў Пецярбургу пад крыптанімам Е. П.), куды ўвайшлі творы каляндарна-абрадавай і пазаабрадавай нар. лірыкі, запісаныя ў Быхаўскім пав. Значная частка кнігі адведзена апісанню мясцовага вясельнага абраду і тэкстам звязаных з ім песень. У прадмове П. называе нар. песні «самароднымі помнікамі славеснасці». Станоўчы водгук пра выданне далі час. «Современник» (1853, т. 42) і «Отечественные записки» (1853, т. 90), але адзначалі недасканаласць перакладаў тэкстаў.

*І. К. Цішчанка.*

**ПАЎЛЮКО́ЎСКІ** Уладзіслаў (1.5.1895, в. Ініца Стаўбцоўскага р-на — 8.11.1955), беларускі паэт, этнограф. Вучыўся ў Харкаўскім мастацкім вучылішчы. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. З сярэдзіны 1920-х г. у Вільні. Супрацоўнічаў у газ. «Народная справа», час. «Маланка», «Авадзень». У 1927 зняволены ўладамі буржуазнай Польшчы ў турму на Лукішках; пазней — у Бяроза-Картузскі канцлагер. Пад псеўданімам Улад.-Ініцкі друкаваў вершы пра цяжкае жыццё селяніна, перажыванні палітвязня. У 1934 у час. «Шлях моладзі» апублікаваў серыю этнагр. эцюдаў, прысвечаных бел. землеробчаму календару (аграрныя абрады, звычаі, гадавыя святы разглядаў у кантэксце з культурнымі традыцыямі інш. народаў). Запісваў нар.

песні. Аўтар жывапісных эцюдаў краязнаўчага зместу. У 1945—49 дырэктар Літаратурнага музея імя А. С. Пушкіна ў Вільнюсе. *А. С. Ліс.*

**ПАЎНОЧНАБЕЛАРУ́СКАЯ І ПАНЯМО́НСКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў *Паазер'я* і *Панямоння* (Віцебскай, Гродзенскай і зах. раёнаў Мінскай абл.). Промысел існаваў больш чым у 60 сярэдніх і дробных цэнтрах ганчарства. Мясцовыя майстры выраблялі пераважна гартаваны і паліваны посуд (з дамешкам жарствы і без яго), а ўвясну — і чорназадымлены для прыгатавання рытуальнай ежы на вялікдзень. Гаспадарчы і дэкаратыўны посуд фармавалі шляхам тачэння на нажным ганчарным крузе і абпальвалі ў горне. У гарадскіх і мястэчковых цэнтрах была пашырана вытворчасць мастацкай керамікі: фігурнага посуду ў выглядзе розных жывёл, дэкаратыўных талерак і букетнікаў, дробнай пластыкі. У многіх вясковых цэнтрах выраблялі пераважна гаспадарчы посуд (гаршкі, латушкі, макатры, пражэльнікі, збанкі) з прымяненнем старажытных навыкаў і тэхнікі вытворчасці: фармоўкі налепам на ручным і ціхаходным нажным ганчарных кругах, абпальвання ў хатняй печы. Для паўн.-бел. керамікі характэрны масіўны, слаба прафіляваны посуд (шыракагорлыя з кароткай шыйкай збанкі і гарлачы), апляцінне вырабаў бяростай. Панямонскай кераміцы ўласцівы больш зграбны сілуэт з даўжэйшай шыйкай у збанкоў і гарлачоў. Кераміку ўпрыгожвалі контррэльефным лінейна-хвалістым узорам. Паліваныя вырабы нярэдка аздаблялі падпаліўнай ангобнай размалёўкай белага, зялёнага і карычневага колераў; у мастацкай кераміцы выкарыстоўвалі таксама ляпны дэкор, каляровую паліву. У некаторых панямонскіх цэнтрах чорназадымлены посуд глянцавалі і ўпрыгожвалі арнаментальнымі ўзорамі. Традыцыі П. і п. к. асабліва ярка выяўляюцца ў гарадоцкай, глыбоцкай, дзісенскай, крэўскай, мірскай і інш. кераміках (гл. адпаведныя арт.). *С. А. Мілючэнкаў.*

**ПАЎНОЧНАБЕЛАРУ́СКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура плямён позняга неаліту і ранняга бронзавага веку (канец 3-га — 2-я чвэрць 2-га тысячагоддзя да н. э.), якія насялялі Беларускае Падзвінне і часткова басейн Віліі. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам, а таксама прымітыўным земляробствам і жывёлагадоўляй. Паселішчы размяшчаліся пераважна ўздоўж невялікіх рэчак, непадалёку ад азёр або каля азёрных затокаў. Яны складаліся з некалькіх наземных жытлаў, аснову якіх утваралі ўкапаныя ў зямлю слупы з развілкамі (сохі), на іх клалася бервяно-кладзь. На яго апіраліся верхнія канцы нахіленых жэрдак, увагнаных завостранымі ніжнімі канцамі ў зямлю. Жэрдкі ўтваралі каркас 2-схільнай страхі, што адначасова выконвала і функцыю сцен. У цэнтры жытлаў на тоўстай пясчанай падсыпцы, падасланай карою хваёвых дрэў, размяшчаліся адкрытыя агнішчы. Побач з агнішчамі стаялі вял. гаршкі для харчовых запасаў. Каля жытлаў, аддзеленых адно ад аднаго драўлянымі агароджамі, размяшчаліся месцы апрацоўкі каменю, косці і дрэва, захоўваліся запасы гліны і ракавін для вырабу пасудзін. Плямёны П. к. выраблялі вастрадонны і пласкадонны посуд, арнаментаваны ўзорамі з насечак, наколаў і адбіткаў грэбеня, драўляныя і рагавыя скульптуркі людзей, птушак, звяроў і змей. *М. М. Чарняўскі.*

**ПАЎНО́ЧНА-ЗАХО́ДНІ АДДЗЕ́Л РУ́СКАГА ГЕАГРАФІ́ЧНАГА ТАВАРЫСТВА.** Створаны ў Вільні 20.6.1867. Дзейнічаў у 1867—75 і ў 1910—14. У першы перыяд меў секцыі: фізіка-матэматычную, этнаграфіі, археалогіі іархеаграфіі, статыстыкі. Яны вывучалі кліматычныя ўмовы Беларусі, праводзілі геалагічныя даследаванні, збіралі матэрыялы па статыстыцы насельніцтва і землеўладанняў, рыхтавалі да друку стараж. інвентары гарадоў і паказальнікі тапанімічных назваў Беларусі і Літвы. Секцыя этнаграфіі распрацавала і разаслала праграму вывучэння сельскай гаспадаркі, промыслаў, побыту, абрадаў, вуснапаэтычнай творчасці. У адказах-апісаннях (642 захоўваюцца ў б-цы Вільнюскага ун-та) багатыя звесткі па бел. этнаграфіі і фальклоры. Аддзел адыграў вялікую ролю ў згуртаванні мясцовых краязнаўцаў і этнографаў. Яго актыўнымі супрацоўнікамі былі вядомыя даследчыкі гісторыі, побыту і культуры бел. народа М. А. Дзмітрыеў, Ю. Ф. Крачкоўскі, М. Я. Нікіфароўскі, Е. Р. Раманаў, В. Г. Сакалоў, А. М. Семянтоўскі, П. В. Шэйн і інш. У 1875 царскія ўлады закрылі Паўд.-Зах. аддзел Рускага геагр. т-ва на Украіне, спынілі працу і Паўн.-Зах. аддзел. Аднавіў дзейнасць у студз. 1910. Працавалі секцыі геаграфіі і статыстыкі, этнаграфіі і археалогіі, археаграфіі, гісторыі. У 1911 было больш за 300 членаў. Сетка мясцовых карэспандэнтаў (настаўнікі, дробныя служачыя, нярэдка сяляне) дэмакратызавала аддзел, пашырала вывучэнне нар. побыту і культуры, прыродна-геаграфічных умоў. Аддзел праводзіў археалагічныя раскопкі, этнагр. і фальклорныя экспедыцыі. Друкаваны орган — *«Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества»* пад рэдакцыяй Дз. І. Даўгялы. З канца 1912 аддзел зазнаў жорсткую цэнзуру, у пачатку 1-й сусветнай вайны спыніў дзейнасць. *В. К. Бандарчык.*

**ПАХАВА́ННЕ,** х а ў т у р ы, цыкл сямейных звычаяў і абрадаў, звязаных з ушанаваннем памяці нябожчыка і праводзінамі яго ў апошні шлях. У старажытнасці на Беларусі існавалі пахавальныя абрады трупаспалення (агонь надзяляўся ачышчальнай сілай) і трупапалажэння; апошні замацаваўся з прыходам хрысціянства. У традыцыйным абрадзе П. цесна перапляліся язычніцкія і хрысціянскія элементы, у якіх выразна выявіўся *культ продкаў.* Пасля смерці памыць і апрануць нябожчыка ў прыгатаваную ім загадзя («на смерць») адзежу, а таксама зрабіць труну і выкапаць дол на абраным месцы прасілі суседзяў. Абавязковым было чытанне над мёртвым псалтыра і адпяванне папом (ксяндзом). У труну клалі грошы, любімыя нябожчыкам рэчы ці прылады яго працы, змену бялізны, што адлюстроўвала веру ў замагільнае існаванне. П. звычайна адбывалася на трэці дзень пасля смерці. У час вынасу труны з хаты ўслед сыпалі зерне, каб нябожчык не забраў з сабой дастатак сям'і, а спрыяў блізкім у іх жыцці. Усе этапы П. суправаджаліся галашэннямі (гл. ў арт. *Сямейна-абрадавая паэзія*). На *могілкі* труну аднавяскоўцы неслі на плячах або везлі на возе, а зімой на санях, пазбягалі запрагаць жарэбных кабыл і коней, на якіх вазілі вянчаць і хрысціць. У праваслаўных труна была адкрытая, у католікаў — накрытая векам. Да могілак труну неслі з харугвамі і крыжам (у пахавальным шэсці ўдзельнічалі звычайна ўсе жыхары вёскі). Пасля апошняга развітання на могілках труну на ручніках або на вяроўках апускалі ў дол (тут жа на могілках прысутнічаў свяшчэннік і служыў набажэнства). На магіле ставілі часовы крыж, які праз некаторы час замянялі больш даўгавечным або каменем. Пасля П. з могілак сваякі нябожчыка і прысутныя ішлі на *памінкі.* Самазабойцаў калісьці хавалі нямытымі і ў той адзежы, у якой яны сустрэлі смерць, а ў труну клалі прадмет, якім яны пазбаўлялі сябе жыцця. Хавалі іх за агароджай могілак або на месцы самагубства, у лесе, на скрыжаванні дарог (памінкі рабіць забаранялася). У сучасных пахавальных абрадах назіраюцца элементы больш позняга паходжання: адразу пасля смерці чалавека спыняюць гадзіннік, завешваюць люстэркі, апранаюць чорнае адзенне, праводзяць грамадзянскую паніхіду з жалобнай музыкай, вянкамі і кветкамі. *У. А. Васілевіч.*

**ПАХАВА́ННЕ «СТРАЛЫ́»,** даўні ахоўна-засцерагальны і магічна-аграрны абрад; гл. ў арт. *«Страла».*

**ПАХО́М,** веснавы прысвятак *народнага календара* (адзначаўся 15 мая с. ст.). У народзе П. лічыўся «агародным святым», таму гаспадыні стараліся пасадзіць агуркі менавіта ў гэты дзень, кіруючыся прыказкай: «Пасееш агуркі, калі Пахом,— будзеш хадзіць з мяхом», г. зн. збярэш вялікі ўраджай.

**ПАХРЫСЦІ́НЫ,** адзін са звычаяў традыцыйнай радзіннай абраднасці; працяг святкавання *радзін* (хрысцін) на другі дзень. П. святкавалі па ўсёй Беларусі, акрамя Зах. Палесся. У наш час П. не адзначаюць.

**ПА́ЦЕРКІ,** к а р а л і, шыйнае і нагруднае ўпрыгожанне жанчын у святочным народным касцюме. Маюць выгляд ланцужка, утворанага з апрацаваных кавалачкаў бурштыну, каменю, каралаў,

шкла, дрэва і інш. з дзірачкамі для працягвання ніткі, воласу, тонкага матузка, паска скуры. П. пераважна круглыя, авальныя, гранёныя, колер разнастайны, залежна ад матэрыялу. Вядомы з каменнага веку. Старажытныя П. мелі трапецападобную, авальную, сякерападобную, пальчастую і інш. форму. Адтуліны звычайна прасвідроўваліся ў вузейшых канцах, а ў сякерападобных — збоку. Некаторыя мелі складаную будову і састаўляліся па прынцыпу парнай сіметрыі. Цэнтр П. складалі масіўныя падвескі з зубоў, фігурных пласцін, бурштыну, побач нанізвалі пары меншых зубоў, затым прымацоўвалі дробныя падвескі. Паміж сабой падвескі падзялялі пранізкамі з П. ці трубачкамі. У перыяд феадалізму ўзбагацілiся каляровая палітра, кампазіцыйнае вырашэнне, матэрыял і формы П. Шырока бытавалі мана- і паліхромныя шкляныя П., радзей — шкляна-сярэбраныя з бясколернага і празрыстага жоўтага шкла з бліскучай металічнай (залатой ці сярэбранай) фольгавай пракладкай. П. знаці і магнатаў нанізваліся з жамчужын, каштоўных камянёў, сярэбраных і залатых пацерынак, створаных чаканкай ці ліццём. З канца 19 ст. ў нар. строях пашырыліся П. з саламяных каробачак, бісеру, шклярусу і выдзіманага шкла. Звычайна маладзіцы надзявалі 3—5 нізак (шнуроў; у слуцкім і дамачаўскім строях — да 15). Святочны ўбор дзяўчыны дапаўняўся П. з нанізаных ягад рабіны, шыпшыны, сухіх шышак, арэхаў і інш. П. надзяляліся магічнай сілай, выкарыстоўваліся ў шматлікіх абрадах. Сучасныя П. з бурштыну, штучнага жэмчугу, точанага дрэва і косці вырабляюць нар. майстры і прафесійныя мастакі рэспублікі. *М. Ф. Раманюк.*

**ПАЦЯ́Г**, групавая гульня, Яе ўдзельнікі счапляюцца сагнутымі ў локцях рукамі ў два ланцугі. «Заваднык», якія стаяць наперадзе ланцуга, захопліваюць адзін аднаго. Па сігналу кожны ланцуг гульцоў цягне ў свой бок, каб разарваць ланцуг праціўніка або. зацягнуць «заваднога» за ўмоўленую мяжу.

**«ПАЦЯРУ́ХА»**, старадаўні традыцыйны танец; тое, што і *«Трасуха»*.

**ПАЧО́ПКА** Іван Пятровіч (Ш к і р б а, Я. Б а ш к і р; 26.10.1890, в. Летнікі Глыбоцкага р-на — 29.5.1977), беларускі літаратар, збіральнік фальклору, прапагандыст с.-г. ведаў. Скончыў Варанецкае с.-г. вучылішча (1913). Працаваў заатэхнікам дэпартамента земляробства па Віленскай губ., пасля Кастр. рэвалюцыі — аграном пры Дзісенскім рэўкоме. З 1922 супрацоўнік перыядычнага друку Зах. Беларусі. У 1925 рэдактар час. «Праваслаўны беларус» (Варшава). Пасля Вял. Айч. вайны аграном у Глыбоцкім р-не. Друкавацца пачаў у газ. «Наша ніва», час. «Саха», У час. «Маланка», «Студэнцкая думка», «Заранка», газ. «Жыццё беларуса» і інш. змяшчаў вершы, легенды, казкі, замалёўкі з жыцця бел. сялян. Аўтар першай бел. кніжкі па садоўніцтву (Мн., 1920). Выдаў у Вільні кніжкі «Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вуллях» і «Малочная карова. Як яе выбраць, карміць і даглядаць» (1923), «Гародніцтва. Як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мець добрае варыва» (1925), «Дурнішча. Народная казка з Дзісеншчыны» (1927), «Як выбраць добрага каня», «Гурток. Камедыя ў адной дзеі з сучаснага жыцця» (усе 1928), «Народныя казкі і апавяданні з Дзісеншчыны» (1930). Частка рукапіснай спадчыны П. зберагаецца ў Цэнтр. дзярж. архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР і ў прыватным архіве мастака А. Марачкіна. *С. Ф. Цярохін.*

**ПЕ́НКІНА** (Т р ы п а л і т а в а) Зінаіда Міхайлаўна [1861, Калуга — 29.12.1887 (10.1.1888)], рускі бібліёграф. У 1880—85 вучылася на Вышэйшых жаночых курсах (Бястужаўскіх) у Пецярбургу. Працавала перакладчыкам у газетах. Бібліяграфіяй займалася з 1879. Аўтар паказальнікаў, у т. л. «Палессе: Бібліяграфічныя матэрыялы па гісторыі, геаграфіі, статыстыцы, этнаграфіі і эканамічным стане Палесся» (1883), які ахоплівае літаратуру за 1855—80 на рус. мове пра Мінскую, Гродзенскую, Магілёўскую, Валынскую

Пацеркі. Канец 11 — 1-я палова 13 ст.

і Кіеўскую губ. Асаблівую цікавасць маюць рубрыкі «Апісанне побыту народаў Паўночна-Заходняга краю», «Помнікі народнай творчасці» і раздзел «Звесткі пра Палессе, што заключаюцца ў творах пра губерні, якія ўваходзяць у склад Палесся».

*Тв.:* Русская библиография морского дела за 1701—1882 включительно: Специальный каталог русских книг по всем отраслям знаний, относящихся до морского дела, с двумя подробными алфавитными указателями. Спб., 1885; Библиографические материалы по железнодорожному делу... за период 1876—1883 г. Спб., 1888.

*Літ.:* Н а з а р е в с к и й Н. А. З. М. Пенкина — первая русская женщина-библиограф //Советская библиография. 1961. № 3. *Л. І. Збралевіч, В. І. Скідан.*

**ПЕРАБО́РНАЕ ТКА́ЦТВА**, тэхніка народнага ткацтва. На Беларусі вядома з 19 ст. Адзін з самых старажытных і простых на выкананню — д в у х б а к о в ы  п е р а б о р  «п а д  п а л а т н о». Для яго характэрны лаканічны арнамент з асобных геаметрычных і геаметрызаваных раслінна-кветкавых узораў, якія чаргаваліся з аднатоннымі чырвонымі паласамі. Такі перабор ткалі ў 2 ці 4 ніты пры палатняным перапляценні фону. Пасля двух праборак узорнага ўтку пракідвалі 2 ніткі фанавага, у выніку чаго элементы арнаменту «разбельваліся» фонам, а тканіна ў месцах узору пашыралася за кошт дадатковых узорных уточын. Д в у х б а к о в ы  п е р а б о р  «п а д  п а р к і» арнаментыкай падобны на папярэднюю тэхніку ткацтва, аднак адрозніваецца большай колеравай насычанасцю ўзору, якая дасягалася за кошт рыпсавага перапляцення (узорны ўток перакрываў 2 ніткі асновы). Аснову запраўлялі ў 4 ніты (фон палатнянага ці рыпсавага перапляцення). У канцы 19 — пач. 20 ст. гэтыя віды перабору выкарыстоўвалі ў прыгожанні рукавоў жаночых кашуль, хустак у в. Неглюбка Веткаўскага р-на, ручнікоў на Гомельшчыне і Магілёўшчыне. А д н а б а к о в ы  п е р а б о р  з  п р ы ц і с к н о й  а с н о в а й (нар. назвы ўкладанне, закладанне, выкладанне). Паліхромны ўзор з буйных ромба-геаметрычных, стылізаваных раслінных і заамарфных матываў утвараецца ў выглядзеаднабаковага ўточнага насцілу. Для замацавання ўзорнага ўтку служылі страчавыя ніткі асновы (прыцiскная аснова), якія адначасова ўтваралі фонавае палатно. Для ўтварэння ўзорнага зева гэтыя ніткі паднімаюць дошчачкай (пры запраўцы ў 2 ніты) або панажамі (пры запраўцы ў 3—4 ніты). Кожны элемент узору закладваецца ўручную па ліку слупкоў, падзеленых страчавымі ніткамі. Пры разваротах на правым баку тканіны ўзорныя ніткі ўтвараюць пяцелькі. Гэты від П. т. дазваляе рабіць больш разнастайнымі ўзорныя і колеравыя кампазіцыі (выкарыстоўваецца пераважна для вырабу посцілак і дываноў). Разнавіднасць такога перабору — перабор «троечкамі», якім з канца 19 ст. ткалі арнаментальныя бардзюры *неглюбскіх ручнікоў*. Узорны ўток пракладваюць у зеў, утвораны 3 паднятымі і 1 апушчаным нітом. Ручнік тчэцца правым бокам уніз, таму разваротныя пяцелькі застаюцца на адваротным баку. Д в у х б а к о в ы  п е р а б о р  з  п р ы ц і с к н о й  а с н о в а й (нар. назвы «ў шмат нітоў», «у матузы», перабіранае, бранае). Узор у выглядзе двухбаковага ўточнага насцілу ўтвараецца ніткай узорнага ўтку, якая пракладваецца праз усю шырыню тканіны. Тэхнікай выканання гэта ткацтва вельмі падобнае на бранае двухуточнае (гл. *Бранае ткацтва*). Узор набіраецца на дошчачку-бральніцу — толькі не па ліку нітак, а па ліку слупкоў, падзеленых страчавымі ніткамі. Узорны зеў фіксуецца паўнітамі ці шнурочкамі-матузамі. Гэты від П. т. вядомы на Беларусі з канца 19 ст., але пашырыўся к сярэдзіне 20 ст. Блізкі да гэтага віду ткацтва п е р а б о р  з  в ы б а р а м (нар. назвы выбіранае, накладанае), які адрозніваецца толькі

тым, што ўзоры ўток у ім не пракідваюць праз усю шырыню тканіны, а пракладваюць толькі на асобных участках (выбарачна) ніткамі рознага колеру. Перабор пяцельчаты (нар. назвы «ў пуплы», «у вузлы», выцяганае). Пракінутую ў зеў уточыну выцягваюць пяцелькай у месцах узору пры дапамозе кручка ці пруткa і замацоўваюць наступнымі пракідкамі фонавага ўтку. Гэты від П. т. выкарыстоўвалі пры ткацтве андаракоў у Зах. Палессі, а таксама посцілак і дываноў. *М. М. Віннікава.*

**ПЕРАВАЛО́КА**, традыцыйная рыбалоўная снасць. Называлася таксама напраўнай вудай. Лёскай служыў шнур, раздвоены на канцы павадкамі, да якіх чаплялі кручкі з прынадай. У выбраным месцы праз раку перацягвалі вяроўку, прывязвалі яе канцы да калкоў, убітых непадалёк ад берага. На дно ракі на шнуры пры дапамозе каменя апускалі кошык з прыкормам (макухай). Свабодны канец шнура прывязвалі да вяроўкі. У гэтым жа месцы да яе прывязвалі яшчэ адзін шнур (адвод), другі канец якога прымацоўвалі да сярэдзіны вудзільна. Павадкі шнура П. тонкімі лёскамі, звітымі з конскага воласу, утрымліваліся недалёка ад кошыка з кормам. Праглынуўшы кручок з прынадай, рыба рвала валасяныя лёскі, аслабляла асноўную лёску вуды, вудзільна з прыўзнятым канцом клалася на ваду і сігналізавала пра ўлоў. Лоўля П. была пашырана на Дняпры на Магілёўшчыне. *Г. М. Браім.*

**ПЕРАВО́З**, плывучы мост для пераправы людзей і грузаў з аднаго берага на другі; тое, што і *паром.*

**«ПЕРАГО́Н»**, народная гульня. Вядомы розныя яе назвы і варыянты («Апука», «Ілкі», «Лавец», «Палант», «Салаўі» і інш.). У руках кожнага з удзельнікаў двух каманд палкі або спецыяльныя дошчачкі (ілкі). Адна каманда стаіць каля чучала «бабы» з перагонам (драўляным шарам ці мячом); другая — у полі за 30—40 крокаў з ілкамі. Адзін з удзельнікаў падкідае перагон, а другі адбівае яго далёка ў поле. Другая каманда стараецца адбіць на ляту мяч палкамі. Перагон адбіваюць так, каб ён трапіў у «бабу», якую абараняе першая каманда. Калі ж яны не ўберагуць чучала, то самі ідуць у поле. Варыянт «П.» з «бабай» вядомы быў на Магілёўшчыне (запісы Е. Р. Раманава). У іншых варыянтах гульні практыкуецца беганне і пападанне мячом у гульца чужой каманды. На некаторых малюнках сярэдневяковых рукапісаў і творах мастацкай разьбы на слановай косці адлюстраваны моманты гульні з мячом і палкамі (13—14 ст.) *А. Ю. Лозка.*

**ПЕРАДРО́ДАВАЯ АБРА́ДНАСЦЬ**, комплекс звычаяў, павер'яў, забарон і абрадаў, якія суправаджалі цяжарнасць жанчыны і рэгламентавалі яе паводзіны. Страх і неразуменне фізіялагічных працэсаў, якія адбываліся ў арганізме жанчыны, даволі высокая дзіцячая смяротнасць у дарэвалюцыйнай Беларусі выклікалі шырокае бытаванне і строгае выкананне П. а. Большасць прадпісанняў і звычаяў, якімі кіравалася жанчына ў перыяд цяжарнасці, былі заснаваны на шматгадовых жыццёвых назіраннях і вызначаліся вялікім практычным зместам, рацыянальнае і магічнае ў іх цесна перапляталася. Жанчына павінна была асцерагацца магчымых фізічных і псіхічных траўм, ёй забаранялася надымаць і насіць цяжкія грузы, глядзець на пажар, а калі гэта здаралася, то нельга было, спалохаўшыся, хапацца за сваё цела, бо ў дзіцяці ў гэтым месцы будзе чырвоная пляма. Вельмі распаўсюджанай была забарона цяжарнай хадзіць на пахаванне і глядзець на нябожчыка, бо ў дзіцяці магла быць цяжкая хвароба (калі ж жанчыне ўсё-такі даводзілася ісці, то яна павінна была прывязаць да пояса чырвоную нітку ці павязаць на галаву чырвоную хустку). Цяжарнай нельга было браць нічога голымі рукамі з агню і перадаваць другому чалавеку што-небудзь праз агонь, бо дзіця будзе злодзеем, ёй забаранялася таксама перакідаць праз галаву вяроўку, сноп і інш., бо ў дзіцяці будзе шрам на шыі або картавасць. Шырока бытавалі і строга выконваліся цяжарнай забароны маніць, красці, зайздросціць другім людзям, бо інакш і дзіця будзе манюкай, злодзеем, зайздроснікам. Агульнабеларускае павер'е, якое было вядома і іншым усх.-слав. народам, забараняла цяжарнай удзельнічаць у хрышчэнні дзяцей, інакш памрэ або яе, або хрышчанае ёю дзіця.

Асобную групу складалі забароны і павер'і, у якіх яскрава прасочваюцца элементы імітатыўнай магіі (падобнае выклікае падобнае). Цяжарнай забаранялася стрыгчы валасы, каб не «ўкараціць» дзіцяці розум, сядзець ці стаяць на парозе, інакш роды будуць вельмі доўгімі і цяжкімі, пераступаць праз вяроўку, аглоблю, клубок нітак, бо дзіця народзіцца з закручанай на шыі пупавінай і г. д. Забаранялася таксама што-небудзь зашываць ці перашываць на сабе — будуць цяжкія роды, адліваць ваду назад у калодзеж, не дагаворваць словы — дзіця будзе заікай. На ўсёй



**Пераборнае ткацтва** (двухбаковы перабор з прыцісной асновай). Посцілка. Вёска Істакі Лідскага раёна.



**Пераборнае ткацтва** (перабор з выбарам). Посцілка. Вёска Талька Пухавіцкага раёна.

Беларусі, за выключэннем Палесся, бытавалі павер'і, згодна з якімі цяжарнай забаранялася пазычаць што-небудзь у суседзяў, бо маглі не даць тое, што яна прасіла, і дзіця ўсё жыццё будзе жыць у беднасці (на Палессі, наадварот, цяжарнай раілі часцей пазычаць, каб натрапіць на чалавека з «лёгкай рукой» — тады роды пройдуць хутка і паспяхова). У П. а. уваходзілі таксама звычаі і магічныя дзеянні, накіраваныя на забеспячэнне дзетанараджэння, на лячэнне бясплоднасці. Шматлікія абрады такога роду сустракаліся ўжо ў вясельным рытуале: асыпанне маладых жытам, аўсом, арэхамі або трыманне гэтых прадметаў за пазухай у час вянчання, насыпанне зерня ў абутак жаніха і нявесты, рытуальнае з'яданне імі яйца або яешні і інш., што ў далёкім мінулым было звязана з культам урадлівасці. Адносіны да цяжарнай у народзе былі дваістыя: з аднаго боку, яна карысталася вялікай павагай, а з другога выклікала пэўны страх — лічылася, што яна «нячыстая», бо носіць у сабе другую душу. Таму цяжарная, асабліва перад родамі, падвяргалася некаторай ізаляцыі.

Падабенства ўмоў сельскага ладу жыцця, агульнасць сацыяльна-эканам. працэсаў садзейнічалі пэўнаму падабенству П. а. на ўсёй Беларусі. Аднак практычна ў кожнай бел. вёсцы ў канцы 19— пач. 20 ст. існаваў свой няпісаны звод правіл П. а. *Т. І. Кухаронак.*

**ПЕРАЛА́З**, прыстасаванне для праходу праз агароджу сялянскай сядзібы. Рабілі П. звычайна каля варот або ў інш. месцах агароджы, каб скараціць шлях да суседняй сядзібы ці студні, у агарод. На месцы П. агароджа была крыху ніжэйшай. З абодвух бакоў яе стваралі своеасаблівыя прыступкі з вял. камянёў, калод, або накшталт укапанай у зямлю невял. лаўкі, якую ставілі ўпоперак плоту, скрозь яго. З цягам часу П. замянілі веснічкамі. *С. А. Сергачоў.*

**ПЕРАМЁТ**, традыцыйная рыбалоўная снасць: шнур (ад 10 да 30 м), на ўсёй даўжыні якога прывязваюцца павадкі з кручкамі. Лакальная назва шнур. На кручкі чапляецца прынада: чарвякі, жыўцы і інш. П. ўстанаўліваюцца паперок вадаёмаў. Каб не зносіла цячэнне, іх прывязваюць да кустоў, часам да канцоў шнура прымацоўваюць каменне. Рыба, праглынуўшы кручок з прынадай, плавае на павадку да прыходу рыбалова. У наш час П. распаўсюджаны ў аматарска-спартыўным рыбалоўстве. Як прамысловая прылада выкарыстоўваецца ў Паазер'і для лоўлі вугроў. *І. М. Браім.*

**«ПЕРАПЁЛАЧКА»**, веснавы карагод-гульня. Музычны памер 2/4. Тэмп умераны. Выконваецца жанчынамі пад аднайменную песню, у якой у вобразе птушкі ўвасабляецца жанчына і яе нялёгкая доля. Удзельніцы карагода, узяўшыся за рукі, з песняй хадзілі па крузе, у цэнтры якога дзяўчына-салістка імітавала рухамі тэкст песні: паказвала, як у перапёлачкі баляць ручкі, ножкі, вочкі і інш. У некаторых мясцовасцях (в. Конкавічы Петрыкаўскага р-на, в. Пагост Жыткавіцкага р-на) у канцы карагода, калі спявалі, што ў перапёлачкі «...галоўка баліць», салістка падала на зямлю, імітуючы, што перапёлачка памерла. На гэтым карагод спыняўся. «П.» вядома ў запісе пач. 19 ст., у наш час зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на Гомельшчыне. *В. В. Шапавалава.*

**ПЕРАПЛО́Т**, збудаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання на сонцы і ветры збажыны, сена, бульбоўніку і інш.; тое, што і *азярод.*

**ПЕРАПО́Й**, рытуальнае частаванне і адорванне, якое замацоўвала дасягнутае пагадненне аб шлюбе паміж жаніхом і нявестай і іх родамі. На працягу *вяселля* П. адбываліся некалькі разоў, пачынаючы з *заручын.* Удзельнікі П. рассаджваліся ў пэўным парадку: жаніх на покуце насупраць нявесты, дружына жаніха насупраць дружыны нявесты, бацька нявесты на апошнім месцы. Гаспадыня налівала чарку, выпівала яе, зноў налівала і перадавала свату жаніха — той выпіваў, наліваў і перадаваў нявесце і г. д. у пэўным парадку да жаніха. У канцы цырымоніі маладыя абменьваліся пярсцёнкамі. У Касцюковіцкім рэгіёне П. пачынаўся пасля першага падарунка нявесты будучаму свёкру, свату і жаніху. У Мазырскім пав. на заручынах жаніх «перапіваў» нявесце пярсцёнак і грошы, а яна яму — пярсцёнак і хустку. Пасля ад імя нявесты яе маці раздавала падарункі радні жаніха, а яго сват «перапіваў» нявесцінай радні грошы. Найбольш распаўсюджаным абрадам П. быў на Палессі, дзе на змовіны з П. прыязджалі хросныя і родныя бацькі маладога, сам малады і яго брат (перапойнік), якія вёз спецыяльную пляшку гарэлкі для П. У час пасаду жаніха і нявесты таксама адбываўся П. з благаславеннем бацькоў і блізкіх. Сват наліваў чарку і падаваў яе жаніху, а той — сваўйму бацьку, якога прасіў прыняць ад яго пашану. Бацька, узяўшы чарку, клаў на талерку грошы і благаслаўляў сына «шчасцем — доляй, векам доўгім». Потым жаніха «перапівала» і ўся яго радня (Мазырскі пав.). Аналагічным чынам «перапівалі» на пасадзе і нявесту, з той толькі розніцай, што яна давала падарункі бацьку жаніха і яго дружкам, якія «перапівалі» ёй грошы. Паўсюдна абрад П. адбываўся пасля царкоўнага вянчання маладых. Выправіўшы сына ў царкву, бацька жаніха ехаў у дом нявесты на абед. Пасля вяртання маладых у дом нявесты іх бацькі, зліўшы гарэлку ў адну міску («ажаніўшы гарэлку»), разлівалі яе ў меншыя міскі і ставілі на сталы. Затым бацька маладога лыжкай наліваў гарэлку ў чарку і частаваў кожнага з прысутных. Бацькам нявесты ён даваў пірагі, а ёй наліваў чарку, паклаўшы ў яе сярэбраную манету. Нявеста накрывала чарку хусткай, пераварочвала яе (гарэлка пры гэтым вылівалася) і забірала манету (Віцебскі пав.). На другі дзень вяселля ў маладога бацькі маладых і вясельнікі «перапівалі» маладых скацінай, грашыма, палатном і інш. з рознымі пажаданнямі. *Л. А. Малаш.*



Пералаз.

**ПЕРАТЫКА́ННЕ**, спосаб упрыгожвання тканін у працэсе іх вырабу з дапамогай каляровага ўтку, які перакідвалі чаўнаком праз усю шырыню тканіны. П. мае выгляд гладкіх ці ўзорыстых папярочных палос чырвонага або чырвонага з нязначнымі дадаткамі сіняга, чорнага, белага і інш. колераў. П. выконвалі рамізным (нітовым) аднаўточным спосабам палатняным, рыпсавым, саржавым перапляценнямі. У асобных выпадках тэрмін «П.» ўжываецца для абазначэння падобнага дэкору, выкананага тэхнікай чатырохнітовага двухуточнага ці проста двухуточнага *бранага ткацтва.*

**ПЕРНІКА́РСТВА**, выраб фігурных пернікаў; від *народных мастацкіх промыслаў.* У нар. побыце пернікі здаўна выконвалі важную ролю ў вясельных абрадах, хрэсьбінах, памінках і інш. урачыстых выпадках. У часы сярэднявечча П. задавальняла пераважна патрэбы пануючых класаў і гараджан, у 19 ст. шырока распаўсюдзілася і ў вёсцы. Промыслам займаліся пераважна ў гарадах і мястэчках (Орша, Копысь, Дуброўна, Мінск), прадукцыю збывалі на мясцовых *кірмашах.* Выраблялі пернікі з лепшай мукі, у цеста дадавалі харчовыя фарбавальнікі, мёд, прыправы, затым фармавалі ў выглядзе розных антрапаморфных, геаметрычных фігур (лялька, певень, конь, казёл, рыба, сэрца і інш.). Трактоўка

фігур моцна стылізаваная, абагульненая, разлічаная на спецыфіку матэрыялу; выбар сюжэтаў адлюстроўваў іх старажытны сімвалічны сэнс. Паводле спосабаў фармоўкі пернікі падзяляюцца на 3 групы: друкаваныя, абразныя і фармаваныя ад рукі. Найбольш старажытныя — друкаваныя: фігурны ўзор на перніку атрымлівалі з дапамогай спецыяльнай драўлянай формы, на якой у тэхніцы контррэльефу выразалі адпаведную фігуру. У пач. 20 ст. друкаваная тэхніка саступіла месца абразной: бляшанымі штампамі з вострымі краямі на плоска раскачаным кавалку цеста выразалі адпаведную фігурку, якую пасля выпечкі аздаблялі каляровым крэмам, харчовымі фарбавальнікамі, глазуравалі. У сярэдзіне 20 ст. промысел П. занепаў; асобныя майстры зрэдку выпякаюць пернікі, сфармаваныя ўручную. Сувенірныя пернікі часам выпускаюць прадпрыемствы харчовай прамысловасці БССР.
*Я. М. Сахута.*

**ПЕРСІЯ́РНЯ**, майстэрня ці мануфактура, дзе выраблялія шаўковыя і «літыя» паясы, шаўковыя тканіны (пераважна на кунтушы). У 18 ст. існавалі ў Слуцку, Гродне, Альбе пад Нясвіжам і інш. Спачатку паясы ткалі на ўзор персідскіх (адсюль назва), пазней выкарыстоўвалі мясцовыя матывы (гл. *Слуцкія паясы, Нясвіжскія паясы*).

**ПЕ́РШАЯ БАРАЗНА́**, традыцыйны земляробчы абрад пачатку веснавых палявых работ; тое, што і *заворванне.*

**«ПЕ́ЎНІК»**, карагодны танец. Музычны памер 2/4. Тэмп ад умеранага да жвавага. Юнакі і дзяўчаты, узяўшыся за рукі, ішлі па крузе простым крокам, акцэнтуючы лёгкім ударам пяткі аб падлогу кожную апошнюю чвэрць такта. Пара выканаўцаў, «разрываючы» круг, утварала варотцы — падымалі ўгору злучаныя рукі, пад якімі праходзілі ўсе танцоры: яны рухаліся па крузе супраць гадзіннікавай стрэлкі. Калі выканаўцы абыходзілі круг, варотцы рабіла наступная пара, а астатнія ішлі карагодам па гадзіннікавай стрэлцы. Танец працягваўся, пакуль усе пары не пабывалі варотцамі. Пры гэтым спявалі: «Ка-ка-рэку, петушок,//Чырвоненькі грабяшок.// Як на рэчаньку пайшоў,//Там ён курачку знайшоў.// Стаў ён яе пытаці:// — Ці ўмееш ты чытаці?// — А я ўмела, пазабыла,// І сваю кніжачку згубіла». У адным з варыянтаў «П.» выканаўцы стаялі па крузе і хорам пыталіся ў саліста, які знаходзіўся ў цэнтры, ці не прадае ён пеўня. На што саліст адказваў: «А я пеўня не прадам, у мяне певень — гаспадар». На ўсе наступныя пытанні ён таксама даваў адмоўныя адказы і расхвальваў пеўня, паказваючы ў танцы, як той шукае і дзяўбе зерне, і інш. Танец зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях.
*Ю. М. Чурко.*

**ПЕЦЮКЕ́ВІЧ** Мар'ян Язэпавіч (24.9.1904, в. Цяцеркі Браслаўскага р-на — 13.9.1983), беларускі і польскі этнограф. Скончыў Віленскую бел. гімназію (1926), аддзяленне этнаграфіі і этналогіі Віленскага ун-та (1938). Дыпломную работу «Першабытныя рысы народнай культуры стараверау ў Браслаўскім павеце» напісаў пад кіраўніцтвам К. Машынскага, для якога збіраў матэрыялы па матэрыяльнай культуры беларусаў. У Вільні ў 1929—34 быў фактычным рэдактарам час. «Шлях моладзі», з 1930 працаваў у бібліятэцы Ін-та Усх. Еўропы і бібліятэцы імя Урублеўскіх, у 1939—41 дырэктар Бел. музея. У 1949 быў незаконна рэпрэсіраваны. Пасля рэабілітацыі ў 1956—70 супрацоўнік Этнагр. музея ў Торуні (ПНР), дзе стварыў экспазіцыі матэрыяльнай культуры беларусаў. Даследаваў нар. культуру бел. насельніцтва Беласточчыны. Друкаваўся ў газ. «Ніва», час. «Калоссе», «Lud» («Народ»), «Literatura ludowa» («Народная літаратура»), у «Беларускім календары», «Навуковым зборніку», «Pracach popularnonaukowych Towarzystwa naukowego Toruńskiego» («Навукова-папулярных працах Тарунскага навуковага таварыства») і інш. Аўтар прац «Увагі дзеля запісвання беларускай народнай творчасці і абрадаў. 3 праграмамі: 1. Дзеля запісвання пахаронных абрадаў. 2... памінальных дзён» (1933), «Мікола Нікіфароўскі — беларускі этнограф» (1935), «Беларуская мелаграфія» (1936), «Казюк. Кірмашныя звычаі 4. III у Вільні» (1952), «Аб паходжанні назвы Беларусь, беларус», «Родная мова — найдаражэйшы скарб», «Рыхтавацца да выстаўкі беларускага народнага мастацтва» (усе 1957), «Купалле — у мінулым усенароднае свята», «Аб паходжанні імён», «Польскае этнаграфічнае таварыства і нацыянальныя групы ў сучаснай Польшчы» (усе 1958), «Прозвішчы», «Этнаграфічная разведка» і «Апытальнік да народнага адзення, абутку і аздаблення» (усе 1959), «Старадаўнія велікодныя звычаі ў беларусаў» (1960), «Старадаўнія юр'еўскія звычаі ў беларусаў» (1961), «Пахавальныя звычаі» (1965), «Кубел ці цэбар?» (1967), «Беларуская этнаграфія ў працах польскіх даследчыкаў» (1968), «У Таруні пра БССР і беларускую культуру» (1973), «Беларускае народнае мастацтва ў Быдгоскім ваяводстве» і «Памяці прафесара К. Машынскага» (1975), «Уклад Казіміра Машынскага ў даследаванне народнай культуры беларусаў» (1976) і інш. У архіве Тарунскага этнагр. музея зберагаюцца рукапісы і машынапісы этнагр. прац П.
*І. У. Саламевіч.*



Пернікі.

**ПЕЧ** хатняя, прыстасаванне для прыгатавання гарачых страў, выпякання хлеба, абагравання памяшкання, сушкі і інш. Поліфункцыянальнасць П. вызначала яе важную ролю ў паўсядзённым побыце, у традыцыйных звычаях, абрадах і вераваннях беларусаў. У *інтэр'еры хаты* селяніна П. звычайна займала месца ў бліжнім ад уваходу куце і была звернута вусцем да падоўжнай сцяны з вокнамі. Унутры П. мела под, на якім палілі дровы і гатавалі страву, зверху — паднябенне; закрывалася яна засланкай. Паводле будаўнічых матэрыялаў вядомы П.: каменка, глінабітная і цагляная, якія прыкметна адрозніваюцца канструкцыйнымі асаблівасцямі. Найбольш архаічная печ-каменка складвалася з валунных камянёў проста на грунце або на невысокай пляцоўцы і мела паўкруглую ці авальную форму. Шырока вядомы па археалагічных раскопках у слаях раннеслав. і старажытнарускага часоў. Бытавала да нядаўняга часу ў лазнях і ёўнях. У перыяд феадалізму найбольш пашырана была глінабітная курная П. (без дымахода). Калі палілі, дым ішоў на хату і выходзіў праз адтуліну (верхнік), зробленую ў столі або ў верхніх вянцах зруба. На Палессі курныя П. часам размяшчаліся вусцем у сенцы, куды і выходзіў дым. П. збівалі з глінянай масы, у якую дабаўлялі камяні (для лепшага ўтрымання цяпла). Зрубная або слупавая аснова П. (апечча, апечак) утварала знутры свабодны прамежак (падпечча), дзе трымалі розныя нехадавыя рэчы, а ў зімовыя маразы — свойскую птушку. У верхняй частцы апечча было шырэйшае за П., утвараючы пляцоўку — прыпечак (загнет). На прыпечку, збоку ад вусця П., была ямка-ніша, куды зграбалі частку гарачага вугалля, закрываючы яго слоем попелу. У гэтым стане вугалле захоўвалася круглыя суткі і выкарыстоўвалася ў якасці запалак. Калі вуглі гаслі, гэта лічылася кепскай прыкметай. Нязгасны «вечны агонь» у ачагу быў для беларусаў сямейнай святыняй, сімвалам шчасця і дабрабыту. Старажытнае павер'е не дазваляла пазычаць яго ў суседзяў у святочныя дні. Верхняя частка П. (чарэнь, ляжанка) уяўляла сабой роўную пляцоўку, служыла месцам адпачынку, выкарыстоўвалася таксама для сушкі адзення, зерня, ягад, лекавых траў, паскоранага квашэння цеста ў дзяжы і інш. Нярэдка яна панiжалася да спальнага полу ступеньчатым заломам (зачынак). У парэформенны перыяд курныя П. паўсюдна замяняліся на «белыя» з дымаходам (комінам).

У першапачатковым выглядзе яны мала чым адрозніваліся ад курных, калі не лічыць дымаходнай трубы, што навісала пірамідальным нізам над вусцем печы. На гарышчы яе нярэдка прадаўжала драўляная «дуплянка», якую звычайна выдзёўбвалі са ствала вольхі і абмазвалі знутры глінай. У канцы 19 — пач. 20 ст. дымаход злучаўся з П. ў адзінай канструкцыйнай форме. Усю П. рабілі з цэглы. На рагу прыпечка, звернутага да покуці, нярэдка ўладкоўваўся камінак, дзе вечарам палілі смалісты корчык ці лучыну, асвятляючы хатняе памяшканне, тут таксама гатавалі і вячэру, паставіўшы на трыногу гаршчок. Нярэдка каля П. будавалі *грубку*, злучаную з ёю агульным дымаходам. Сучасныя П., захоўваючы асноўную традыцыйную форму, будуюць з абпаленай цэглы, часам абліцоўваюць кафляй. Новыя сродкі ацяплення і прыгатавання ежы звузілі функцыянальнае значэнне П. ў сучасным хатнім побыце.

*В. С. Цітоў.*

**ПЕ́ШНЯ**, прылада для прабівання палонак у лёдзе. Складаецца з драўлянага дзержака і вострага металічнага наканечніка. У рыбалоўстве — абавязковая прылада пры падлёднай лоўлі рыбы *невадам*. У наш час шырока выкарыстоўваецца ў зімовым лове кручковымі аматарска-спартыўнымі снасцямі.

**ПЕ́ШНЯ**, даўбёжная прылада. Складаецца з падоўжанай драўлянай ручкі, на якую насаджваецца жалезны наканечнік з авальным, радзей прамым (долатападобным) профілем ляза. Ужывалася ў дрэваапрацоўчым рамястве пры вырабе выдзеўбанага посуду тыпу *кадаўбаў*, вадасцёкавых труб, жалабоў, *комінаў*, шафак, калодных вулляў, *борцей*.

*В. С. Цітоў.*

**«ПІКА́Р»**, дзіцячая гульня. Колькасць гульцоў не абмежавана. Кожны меў свой кіёк. Для гульні быў патрэбен таксама невялікі (10 см вышыні і таўшчыні) кавалак дрэва, або стары металічны кубак ці бляшанка — пікар. Яго ставілі ў абведзены квадрат за 6—8 м ад пазначанай на зямлі лініі — мяжы (за ёй знаходзіліся ўдзельнікі). Потым выбіралі вартаўнічага пікара, яго таксама называлі «пікар». Кожны гулец ставіў кіёк на ступню нагі (прытрымліваючы верхні канец рукой) і, разгойдаўшы яго, кідаў наперад. Чый кіёк падаў найбліжэй ад мяжы, той і заставаўся «пікарам». Вартаўнічы станавіўся воддаль ад пікара, які астатнія ўдзельнікі імкнуліся збіць, па чарзе кідаючы свае кійкі. Калі хто збіваў пікар, вартаўнічы хутка ставіў яго на месца, тым часам гулец павінен быў забраць свой кіёк, ды так, каб «пікар» не паспеў крануць яго сваім кійком. Калі ж вартаўнічаму гэта ўдавалася, ён сам збіваў пікар і ўцякаў за мяжу, а «пікарам» станавіўся гулец. Калі ж новы вартаўнічы паспяваў паставіць пікар на месца, дакрануцца кійком да папярэдняга вартаўніка і ўцячы за мяжу, то той заставаўся за «пікара» далей. Калі папярэднія гульцы не ўцэлілі ў пікар, яны беглі за сваімі кійкамі разам за тым, хто яго збіў; тады яны дапамагалі адзін аднаму, збіваючы пікар, бо калі ён ляжаў на зямлі, дотык вартаўнічага не залічваўся.

*В. Дз. Ліцвінка.*

**ПІЛА́**, інструмент для апрацоўкі (распілоўкі) дрэва, мінеральных парод, металу і інш. Рабочая частка ўяўляе металічную пласціну ці дыск з зубчатым краем. Мае шэраг канструкцыйных варыянтаў у залежнасці ад спецыялізацыі. У традыцыйнай вытворчай практыцы ўжывалася некалькі тыпаў П.: нажоўка, лучковая, цяслярская, падоўжная, храпільная (т. зв. лісічка або белачка) і інш. Найбольш старажытныя нажоўка (паводле археалагічных звестак вядома з 10 ст.) і двухручная цяслярская П. (14 ст., выяўлена пры раскопках Гродзенскага замчышча). Недасканаласць зубчатага ляза і працаёмкасць тэхналогіі вырабу абмяжоўвалі сферу выкарыстання П. ў перыяд сярэднявечча; ёю рабілі неглыбокія пазы і спілы ў дрэве; выкарыстоўвалі для апрацоўкі больш цвёрдых і крохкіх матэрыялаў — косці, мінералаў. Сучасная цяслярская П. мае шырокае роўнае і пругкае палатно, выраб якога патрабуе спецыяльнай тэхналогіі з выкарыстаннем легіраваных металаў. У шырокі ўжытак увайшла ў 2-й пал. 19 ст. Аднак у старых сялянскіх пабудовах, што захаваліся да нашага часу, канцы вуглоў нярэдка апрацаваны сякерай. У канцы 19 ст. ў вытворчай практыцы пачала шырока ўжывацца П. для падоўжнай распілоўкі бярвён на дошкі, брусы, дылі. Яна мела доўгае асіметрычнага профілю палатно з замацаванымі па канцах ручкамі. Бярвёны ў гэтым выпадку клалі на высокія сталюгі і іх распілоўвалі ўздоўж адначасова 2—3 чалавекі (звычайна адзін стаяў на бервяне і 1—2 на зямлі пад бервяном). Да сярэдзіны 20 ст. пілаванне дошак нярэдка вылучалася ў самастойны, часта адыходны промысел. У наш час на змену падоўжнай П. прый-



Курная печ.



Печ-каменка.



Печ з комінам.



Пешня.



Пешні



**Піла** для пазоў — «белачка».

шла П.-цыркулярка з механічнай цягай. Замест цяслярскай П. ў асабістых гаспадарках усё часцей ужываюць ланцуговую бензапілу. Сталярныя П.— нажоўка, лучковая, прапільная — шырока ўжываюцца ў хатняй гаспадарцы да нашага часу. *В. С. Цітоў.*

**ПІЛІПАЎКА**, адпаведны час земляробчага календара перад *калядамі*; 4—6-тыднёвы піліпаўскі пост. Палявыя работы былі ўжо завершаны і гал. ролю набывала малацьба, жаночая хатняя праца. У гэты час царква забараняла гульні, забавы, спраўляць вяселлі і г. д. У П. доўгімі зімовымі вечарамі пралі кудзелю. На вячорках спявалі паставыя песні, для якіх характэрна сур'ёзная тэматыка, апавядальная ці дыялагічная форма і пераважна мінорны характар напеву. Асноўная тэматыка піліпаўскіх песень — хатняя жаночая праца, гаротнае сямейнае жыццё жанчыны-сялянкі, нядобразычлівасць з боку сваякоў мужа, нялюбы муж, муж-п'яніца, смутак, туга па родным доме. Нязначнае месца сярод іх займалі песні жартоўнага зместу, у некаторых гучалі любоўныя матывы. Сустракаюцца песні баладнага зместу. *А. І. Гурскі.*

**ПІЛІПЕНКА** Міхаіл Фёдаравіч (н. 19.5.1936, в. Нежыхаў Брагінскага р-на), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. навук (1971), дацэнт (1977). Чл. КПСС з 1963. Скончыў БДУ (1961). Працаваў настаўнікам, з 1967 у БДУ. Даследуе пытанні гісторыі бел. этнаграфіі і фальклярыстыкі, сямейнага побыту бел. сялянства, вясельных звычаяў і абрадаў, нар. рэлігійных вераванняў. Аўтар кнігі «Этнаграфія Беларусі» (1981).

**ПІНСКА-ІВАЦЭ́ВІЦКІ СТРОЙ**, традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Заходняга Палесся. Бытаваў у 19 — сярэдзіне 20 ст. ў Бярозаўскім, Ганцавіцкім, Драгічынскім, Івацэвіцкім, Пінскім р-нах. Яму ўласціва серабрыста-белая каларыстычная гама, стрыманае аздабленне натыканнем, вышыўкай і карункамі, якія падкрэслівалі свяцінню тонкага накрухмаленага палатна.

Жаночы летні гарнітур існаваў у 2 варыянтах: кашуля, спадніца-андарак, фартух, кабат (неабавязковая частка гарнітура), намітка; спадніца-палатнянік, кашуля (потым блуза), фартух, чапец з хусткай. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па ўтку, з адкладным або стаячым каўняром. Арнамент — гладкія, пункцірныя, у выглядзе шахматнага поля вузкія пасачкі чырвонага, чырвона-чорнага натыкання на рукавах, грудзях і плечавых устаўках. Фартух шылі з 1 полкі, кроенай па ўтку, або з 3—4 полак, кроеных па аснове. Арнаментальныя лініі размяшчаліся паралельна лініі нізу або краёў бакавіц, утвараючы палосы ці клеткі з буйным рапортам. У 1930—60-я г. фартухі аздаблялі таксама паліхромнымі раслліннымі ўзорамі, карункамі. Андарак кроілі з 4 полак аднатоннай ці ў паскі баваўнянай тканіны чырвонага, фіялетава-сіняга колераў, спадніцу — з белага палатна, на падоле аздаблялі чырвонымі вузкімі паскамі натыкання. Кабат шылі з дамацканага цёмна-карычневага (радзей сівога) прываленага сукна без рукавоў (накшталт гарсэта) і з рукавамі (накшталт курты). Галаўныя ўборы жанчын — намітка, аздобленая жывымі або штучнымі кветкамі, ажурна выплецены з ільняных ці баваўняных белых нітак чапец (пакладаўся на саламяную каробачку ці тканку), белая хустка з паліхромнай вышыўкай на адным рагу. Мужчынскую кашулю кроілі з плечавымі ўстаўкамі, падпяразвалі шырокім плеценым чырвоным поясам з мноствам дробных кутасікаў на канцах. Летам насілі саламяныя брылі, абвязаныя па верху ўзорыстай тасьмой, зімой — круглыя шапкі з шэрага ці блакітнага сукна і з чорным аўчынным аколышам. Дапаўнялася мужчынскае адзенне скуранойкайстрачкай-калітой (насілі на раменьчыку цераз плячо або падвешвалі да пояса), скураным чахлікам для нcorrect жыка. *М. Ф. Раманюк.*



**Пінска-івацэвіцкі строй.** Маладая ў вясельным касцюме (справа) і жанчыны ў святочных касцюмах. Вёска Бездзеж Драгічынскага раёна. 1930-я г.



**Пінска-івацэвіцкі строй.** Жанчыны ў традыцыйным адзенні з чапцамі. Вёска Аброва Івацэвіцкага раёна. 1930-я г.

**ПІНСКА-ІВАЦЭВІЦКІЯ РУЧНІКІ**, тып традыцыйных тканых ручнікоў, якія выраблялі народныя майстры вёсак Бярозаўскага, Ганцавіцкага, Драгічынскага, Іванаўскага, Івацэвіцкага, Пінскага р-наў. Вядомы з 19 ст. Даўжыня 180—250, шырыня 13—30 см. Па колеравай гаме, стылістыцы арнаменту, якасці палатна блізкія да *мотальскіх ручнікоў*. Ткуць з ільняных і баваўняных нітак, па краях аздабляюць шматколерным вышытым гладдзю арнаментам (выявы букетаў, ваз, гірляндаў кветак і інш.). Бываюць прамавугольныя і ступеньчатыя (да асноўнай часткі прышываюць па канцах вузейшыя кавалкі палатна, што надае ім ступеньчатую форму). Прамавугольныя ручнікі ткуць у 3 ніты арнаментам «у коскі», канцы завяршаюць мохрыкамі ці паскамі карункаў (плеценыя з нітак асновы або вязаныя з белых баваўняных). У арнаментыцы пашыраны палоскі: вузкія па-

пярочныя, адзінкавыя ці згрупаваныя па некалькі (чырвоныя, чырвона-блакітныя, шэра-белыя), а таксама падоўжныя і папярочныя, якія ўтвараюць буйнарапортную клетку. Ступеньчатыя ручнікі ткуць у 2 ніты, асноўную (шырэйшую) частку аздабляюць гладкімі ці ўзорыстымі палосамі геаметрычнага арнаменту, канцы — дробна-ажурнымі вузельчыкавымі карункамі, плеценымі з суканых нітак асновы, арнаментам, вышытым крыжыкам (стылізаваныя выявы жанчын, жывёл, птушак выконваюць чырвонымі і чорнымі ніткамі бавоўнығорыне). Шырока выкарыстоўваюцца ў



**Пінска-івацэвіцкія ручнікі.** Вёска Лядавічы Іванаўскага раёна.

афармленні інтэр'ераў хат, традыцыйных абрадах, служаць узорамі пры распрацоўцы сувенірных вырабаў. Зберагаюцца ў Музеі этнаграфіі народаў СССР у Ленінградзе, Дзярж. музеі БССР, Раўбіцкім музеі бел. нар. мастацтва, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР. *М. Ф. Раманюк.*

**ПІСАНКІ,** размаляваныя рознымі ўзорамі курыныя яйкі. Называлі таксама крашанкі, маляванкі. У побыце беларусаў і інш. еўрапейскіх народаў вядомыя здаўна. У дахрысціянскі перыяд былі звязаны з веснавымі святамі, сімвалізавалі абуджэнне прыроды, яе пладавітасць і жыццёвасць; з прыняццем хрысціянства ўвайшлі ў абрад святкавання *вялікадня.* Найб. пашыраны спосаб аздаблення — васкаванне. Яйка з папярэдне нанесеным спецыяльнай бляшанай леечкай, шпількай, цвіком васковым узорам фарбавалі ў растворы натуральных (шалупінне цыбулі, кара дрэў, адвары траў) ці штучных фарбавальнікаў. На каляровым фоне атрымліваўся белы ўзор — у тых месцах, якія былі закрыты воскам і не прапускалі фарбавальнік. Каб атрымаць паліхромны ўзор, яйка паслядоўна апускалі ў розныя фарбавальнікі — ад светлых да цёмных, кожны раз наносячы новы ўзор з воску.



**Пінска-івацэвіцкія ручнікі.** Вёска Парэчча Пінскага раёна.

На Беларусі пераважала аднатонная расфарбоўка ў чорны, чырвоны, радзей — зялёны, жоўты і інш. колеры (без уліку натуральнага белага колеру шкарлупіны). Характар малюнку, у якім пераважалі старажытныя сімвалічныя матывы, залежаў ад спосабу нанясення васковага ўзору. Накапванне воску з дапамогай шпількі давала элементы ў выглядзе расцягнутых крапелек, з якіх кампанаваліся кругі-разеткі, кветкі, ланцужкі, паяскі, стылізаваныя заамарфныя і антрапаморфныя малюнкі. Спецыяльнай леечкай-пісаком



**Пінска-івацэвіцкія ручнікі.** Вёска Крамно Драгічынскага раёна.



**Пінска-івацэвіцкія ручнікі.** Вёска Спорава Бярозаўскага раёна.

наносілі прамыя і хвалістыя паяскі ўдоўж і ўпоперак яйка, дзялілі яго паверхню на 2, 4, 8 палёў, у якіх малявалі ўзоры ў выглядзе ялінкі, грабелек, стылізаваных зорак, завіткоў і інш. Радзей бытавала гравіраванне — прадрапванне белага контурнага ўзору на каляровым фоне. Тонкі графічны ма-

люнак складаўся з геаметрычных і стылізаваных раслінных матываў, уключаў пажадальныя надпісы. Размалёўка ад рукі давала адвольны малюнак, пераважна расліннага характару. Шырока бытавала звычайная суцэльная расфарбоўка яек (крашанкі).

*Я. М. Сахута.*

**ПІ́ЎНІЦА,** род склепа (пограба) для захоўвання піва, квасу, воцату, малака, агародніны, садавіны і інш. прадуктаў. Існавалі ў 16— пач. 20 ст. ў замках, магнацкіх і панскіх сядзібах, фальварках, манастырах, кляштарах, пры корчмах і г. д. Размяшчаліся каля жылых дамоў, у гаспадарчых зонах, каля бровараў, у садах, на агародах, часам сумяшчаліся з лядоўнямі. Будавалі П. з дрэва і каменю. Найбольш пашыраны былі драўляныя П.— заглыбленыя ў зямлю зрубы з бярвён (брусоў) з насыпаным зверху грунтам і накрытыя дранкай, гонтай, саломай. Існавалі таксама П. каркаснай, або т. зв. прыслуповай, канструкцыі, у якіх сцены з колатых плашак, дыляў, плятня мацаваліся да сценак ям укапанымі ў зямлю вертыкальнымі слупамі. Перакрыццё каркаснай або вянковай канструкцыі. Часам памяшканне перагароджвалі на 2 аддзяленні. Уваходы ў П. рабілі праз «шыі» — крытыя заглыбленыя ў зямлю лесвіцы. Звычайна «шыі» мелі дзверы ў выглядзе драўляных крат (для праветрывання), а ў саміх П. былі моцныя глухія дзверы, часам акаваныя. Мураваныя П. сваёй планіроўкай амаль не адрозніваліся ад драўляных. Нярэдка пад П. будавалі адрыны, каморы, птушнікі, свірны, сырніцы, клеці, шопы. У асобных сядзібах і замках П. будавалі пад жылымі дамамі або іх часткамі (сенцамі, алькежамі і інш.). Вядомы выпадкі, калі мураваныя П. існавалі як скляпы пад усім збудаваннем палаца, сядзібнага дома. Тады яны называліся проста скляпамі, хаця частка з іх і лічылася П. (Нясвіжскі замак і інш.).

*Ю. А. Якімовіч.*

**ПІЧЭ́ТА** Уладзімір Іванавіч [9(21).10. 1878, г. Палтава — 23.6.1947], савецкі гісторык. Акадэмік АН СССР (1946, чл.-кар. 1939), акадэмік АН БССР (1928). Засл. праф. БССР (1926). Засл. дзеяч навукі Узб. ССР (1943). Канд. у чл. КПСС з 1946. Скончыў Маскоўскі ун-т (1901). У 1910—11 прыват-дацэнт, у 1918—22 прафесар Маскоўскага ун-та. Адзін са стваральнікаў Бел. навук.-культурнага т-ва ў Маскве (1918—19, старшыня праўлення). Прачытаў курс лекцый «Гісторыя беларускага народа» ў Бел. нар. ун-це ў Маскве. Адзін з арганізатараў БДУ і Інбелкульта, першы рэктар БДУ (1921—29). З 1939 у АН СССР, заг. сектара славяназнаўства Ін-та гісторыі, з 1947 нам. дырэктара Ін-та славяназнаўства, адначасова з 1939 заг. кафедры гісторыі зах. і паўд. славян Маскоўскага ун-та. З яго імем звязаны перыяд станаўлення бел. сав. гістарычнай навукі, этнаграфіі, крыніца-, архіва- і краязнаўства. У працы «Уводзіны ў рускую гісторыю (крыніцы і гістарыяграфія)» (1922) упершыню даў крытычны агляд крыніц і літаратуры па гісторыі Беларусі. Многа ўвагі ўдзяляў пытанням паходжання бел. народнасці, паліт., сацыяльна-эканам. і культурнага развіцця Беларусі ў складзе Вял. кн. Літоўскага. Складванне бел. народнасці датаваў 14—16 ст., падкрэсліваў рашаючую ролю сацыяльна-эканам. фактараў у фарміраванні і развіцці этнічнай супольнасці беларусаў, адзначаў этнагенічную роднасць рус., укр. і бел. народаў. Сацыяльна-эканам. і паліт. гісторыі Беларусі прысвечаны артыкулы і працы «Эпоха гарадской гаспадаркі на Беларусі» (1925), «Гісторыя сельскай гаспадаркі і землеўладання на Беларусі» (ч. 1, 1927), «Феадальнае памесце ў XV—XVI стст. у Вялікім княстве Літоўскім» (1951) і інш. Вялікую ўвагу аддаваў прапагандзе і папулярызацыі бел. мовы і літаратуры [«Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны» (1924), «Беларускае адраджэнне ў XVI ст.» (1926), «Культура Беларусі ў XVI ст.» і «Адраджэнне Украіны-Русі і Белай Русі ў XVI— пачатку XVII ст.» (1961) і інш.]. Аўтар публікацый па гісторыі асобных мясцін і паселішчаў Беларусі: «Полацкая зямля ў пачатку XVI ст.» (1926), «Мінск», «Магілёў», «Віцебск» (усе 1944). Чл. ЦВК БССР у 1921—30.



**Пісанкі.**



У. І. Пічэта.

*Тв.:* Гісторыя Беларусі. Ч. 1. М.; Л., 1924; Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии. М., 1940; Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. [2 изд.]. М., 1958; Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961.

*Літ.:* Академик В. И. Пичета: Страницы жизни. Мн., 1981; В. И. Пичета: Биобиблиогр. указ. Мн., 1978. *В. Ф. Голубеў.*

**ПІШЧЫК,** 1) агульнавядомая на Беларусі назва галоўнай канструкцыйнай дэталі — адзінарнага язычка — розных духавых музычных інструментаў: *жалейкі, кларнета, дуды, гармоніка,* ражка, *трубы.* 2) Лакальная назва адной з разнавіднасцей жалейкі, што выраблялецца са сцябліны спелага жыта. Вызначаецца характарам гучання — вібрыраванага, пранізліва рэзкага, моцнага. Зафіксавана ва ўсіх раёнах Брэсцкага Палесся.

**ПЛЕ́МЯ,** тып этнічнай супольнасці і сацыяльнай арганізацыі людзей, уласцівы першабытнаабшчыннаму ладу. Узнікла ў эпоху развітога родавага грамадства. Спачатку складалася з некалькіх экзагамных *родаў* ці груп, звязаных агульнасцю паходжання, асноўных элементаў гаспадаркі, звычаяў і абрадаў, міфалогіі і культаў, адзінствам дыялекту, самасвядомасці і саманазвы. На познім этапе мела своеасаблівую сістэму органаў самакіравання (нарады родавых старэйшын, агульны сход племя, ваеначальнікі і грамадскія правадыры). У час занепаду першабытнаабшчыннага грамадства і ў эпоху ваеннай дэмакратыі ўтвараліся буйныя сацыяльна-паліт. супольнасці — саюзы плямён, аб'яднаныя адзінай уладай, агульнасцю гаспадарча-культурнага комплексу, тэрыторыі і інш. Яны ўзмацнілі моўныя і культурныя сувязі паміж асобнымі П., садзейнічалі змешванню іх і трансфармацыі ў новыя, адпаведныя класаваму грамадству, этнасацыяльныя супольнасці — *народнасці.* Рэшткі племянных адносін доўгі час захоўваліся ў нар. побыце, культуры, міфалогіі, культах, звычаях і абрадах.



Плыты.

На тэр. Беларусі ў неаліце жылі П. *верхнедняпроўскай культуры, дзяснінскай культуры, днепра-данецкай культуры, лейкападобных кубкаў культуры, нарвенскай культуры, нёманскай культуры, тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі культуры, шарападобных амфар культуры;* у бронзавым веку — *лужыцкай культуры, пайночнабеларускай культуры, прыбалтыйскай культуры, сосніцкай культуры, сярэднеднятроўскай культуры, тшцінецкай культуры, шнуравой керамікі культуры;* у жалезным веку — *банцараўскай культуры, днепра-дзвінскай культуры, зарубінецкай культуры, мілаградскай культуры, паморскай культуры, штрыхаванай керамікі культуры;* у ранні сярэдневеччы — аб'яднанні П. усх. славян — *дрыгавічы, крывічы, радзімічы,* а таксама заходнябалцкія плямёны — *дайнова, палякcяне, яцвягі,* якія ў 10—13 ст. уваходзілі ў вятняжскі племянны саюз. У дарэвалюцыйнай этнаграфіі, інш. грамадскіх навуках, л-ры і публіцыстыцы тэрмін «П.» ўжываўся ў сэнсе народ.
*І. У. Чаквін.*

**ПЛОТ,** агароджа з гарызантальных жэрдак вакол сядзіб, абарогаў, пчальнікоў, уздоўж выгану і г. д. дзеля засцярогі ад буйной жывёлы. З даўніх часоў пашырана па ўсёй Беларусі.

**ПЛЫТ,** звязаныя паміж сабой бярвёны для *лесасплаву,* транспарціроўкі грузаў і пераправы па вадзе. Самы стараж. тып водных транспартных сродкаў. Памеры П. залежалі ад велічыні ракі. П. вязалі вясной на вадзе або на беразе сплаўной ракі, часам — зімой на лёдзе. Бярвёны звязвалі ў звёны, якія мелі рэгіянальныя асаблівасці і назвы: у бас. Дняпра — *грабёнка,* тарка, Прыпяці і Нёмана — *клейна, гонка,* лаўка, Зах. Дзвіны — *глейна,* гуська, *лава.* Невялікія П. складаліся з 1—5 звёнаў. На Пцічы часам звёны (клейны) вязалі ўкругавую вакол адной клейны (такі спосаб называўся качаном). Партыя (караван) П. уключала некалькі дзесяткаў звёнаў. Спосабы і прыёмы вязання П. на працягу стагоддзяў амаль не мяняліся. Для вязання ўжывалі *віцы* (нузды, гужба, гардзялі) — вяроўкі са скручаных лазовых, бярозавых, альховых пруткоў або карэння дрэў, радзей пяньковыя. Віцамі прывязвалі канцы кожнага бервяна да *жэрасцей,* пакладзеных упоперак П., і замацоўвалі з дапамогай драўлянага кліна — *кнэбеля* (кніпеля). У пач. 20 ст. П. пачалі звязваць дротам або збіваць жалезнымі цвікамі (ужываліся і драўляныя цвікі — нагелі). Звёны П. злучаліся паміж сабой *паклёсамі.* Для кіравання П. на пярэднім і заднім звяне *плытагоны* мацавалі ва ўключыны (качаты, рачкі) рулявыя вёслы. Часам П. кіраваліся шастамі (*ляска,* яліны, бусакі; даўж. 4 — 6 м). На Дняпры іх называлі бабайкамі, на Прыпяці — дрыгаўкамі, на Зах. Дзвіне — *брыгаўкамі,* рулявое вясло на першым звяне П. на Нёмане і Сожы — *апачынай.* Для запавольвання ходу П. служылі барбары — канаты з лазовых ці бярозавых віцаў з завостранымі шастамі на канцы, а для тармажэння — завостраны кол (*шрык,* шарыга, шорц), умацаваны ў галаве і хвасце П. На начлег П. прычальвалі да берага і прывязвалі яго з дапамогай *арала.* На П., якія знаходзіліся ў дарозе працяглы час, абсталёўвалі месца для жылля і прыгатавання ежы (гл. *Будка, Горан, Казан*).
*Н. І. Буракоўская.*

**ПЛЫТАГО́НЫ,** плытнікі, сплаўшчыкі, рабочыя на *плытах.* У розных басейнах рэк П. мелі мясцовыя назвы: *гоншчыкі, лаўнікі, асначы,* бальнікі, плысакі і інш. Партыю плытоў гнала арцель, на чале якой быў старшы П.— атаман, *караваншчык,* корнік, ротман, стырнік. Назвы гоншчык, лаўнік, корнік характэрны для Віцебшчыны, ротман, флісак, арэль — для Гродзеншчыны, караваншчык — для Усх. Палесся, *пасаўнік,* бальнік, плысак — для Зах. Палесся. Назва сплаўшчыкі бытавала на Беларусі паўсюдна.
*Н. І. Буракоўская.*

**«ПЛЯСКА́Ч»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Выконваецца парамі. Складаецца з блока рухаў, які паўтараецца некалькі разоў запар. Асноўны танцавальны рух, які і даў назву танцу,— пляскание ў далоні. У танцы выконваюцца павароты даяўчыны пад рукой у хлопца, до-за-до, праходкі ў парах па крузе простым крокам і інш. Танец мае нязначныя рэгіянальныя адрозненні. Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Брагінскім і Нараўлянскім раёнах.
*А. Л. Варламаў.*





**Пляценне.** А. Белановіч. Карзіны з лучыны. Вёска Шахноўшчына Стаўбцоўскага раёна. 1980.

**Пляценне.** А. Шанцялееў. Шкатулка з саломы. Вёска Пярэста Сенненскага раёна.

**«ПЛЯСУ́ХА»,** сольны імправізаваны танец. Называлі таксама «Плясавая», «Плясуха-рассядуха». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп вар'іруецца ад павольнага

да вельмі хуткага. Сустракаецца сольнае і масавае выкананне «П.». Ёсць меркаванні, што танец запазычаны ў 1-й чвэрці 20 ст. ў перасяленцаў з Расіі. У асноўным «П.» пабудавана на разнастайных прысядачных рухах (магчыма, таму яе часам і называюць «П.-рассядуха») і дробатах, якія суправаджаюцца пляскаеннем у далоні. Танец суправаджае каноткімі, часцей за ўсё чатырохрадковымі прыпеўкамі. Сустракаюцца варыянты «П.», якія выконваюцца пад «Барыню». Танец зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Жыткавіцкім, Рэчыцкім і Рагачоўскім раёнах. *А. Л. Варламаў.*

**ПЛЯЦЁННЕ,** выраб рэчаў утылітарнага і мастацкага характару злучэннем палос эластычнага матэрыялу пад прамым ці косым вуглом; від рамяства. Бывае ручное і машыннае. Матэрыялы для П.— лаза, салома, чарот, мачала, карані дрэў, лыка, бяроста, скура, лучына, стружкі, ніткі, дубцы арэшніку, ядлоўцу, рабіны і інш., у наш час — і сінтэт. матэрыялы. Папярэднічала *ткацтву*. Вядома з неаліту (захаваліся рэшткі сплеценых з лыка сетак, адбіткі плеценых вырабаў на гліне). Стараж. ўзоры П. не зберагліся. Найбольшае пашырэнне мела ў 19 — 1-й пал. 20 ст. Жыхары многіх паселішчаў выраблялі плеценыя рэчы для ўласнага ўжытку і на продаж (як нар. промысел). Найбольш пашырана было П. з лазы. На Палессі з яе плялі агароджы (пляцень), сцены гаспадарчых пабудоў, якія вызначаюцца своеасаблівым рытмічным малюнкам пераплящення лазовых пруткоў. Прастай, спіральнай, крыжовай, рабровакрыжовай тэхнікамі П. выраблялі лазовыя палукашкі і кузавы вазкоў і саней, рыбалоўныя снасці (каробкі, бучы, венцеры), посуд на зерне, агародніну (кашы, кашолкі), сявенькі, карзіны, мэблю (крэслы, калыскі, падстаўкі пад вазоны, карабы на бялізну) і інш. Вырабам лазовай мэблі славіліся майстры Магілёва, Гомеля, Суража, дзе былі арганізаваны спец. майстэрні; кузаваў выязных вазкоў і саней — Давыд-Гарадка (Столінскі р-н), Лахвы (Лунінецкі р-н). З саламяных жгутоў, пераплеценых лазой, выраблялі шыяны, карабы, сявенькі, кублы, гарцы; з саломы плялі шкатулкі, цацкі, сумкі, капелюшы (брылі). Унікальныя ўзоры П.— саламяныя царскія брамы канца 18— пач. 19 ст. з в. Вавулічы і Лемяшэвічы



Пляценне. А. Лук'янец. Мэбля з лазы.



Пляценне. Вырабы з саломы.

на Піншчыне (Дзярж. маст. музей БССР). З сасновай лучыны (дранкі) выраблялі посуд на садавіну і агародніну, карабы для пераноскі сена (Паазер'е); з бяроставых стужак — заплечныя кашалі для збору грыбоў, сумкі, вярэнькі (Палессе), на Паазер'і імі аплеталі ганчарны посуд для малака і малочных прадуктаў (берасцянікі). З рагозу (пераважна на Палессі) выраблялі трывалыя, лёгкія, эластычныя сумкі і кашолкі. Дробныя вырабы маст. характару — каробачкі для рукадзелля, карзінкі, сумачкі, фруктоўніцы — плялі з карэньчыкаў хваёвых дрэў, тонка нарэзаных стужак арэшніку. З лыка, вяровак выраблялі лапці, са скуры — дэталі конскай вупражы, бізуны. Значную групу складае П. з тэкстыльных матэрыялаў: нітак, шнуроў, вяровак і інш. Найбольш простым прыёмам П. з'яўляецца віццё (гл. *Вяровачнае рамяство, Віццё мастацкае).* Суканыя шнуры і вяровачкі ўжывалі як аздабленне і дэкаратыўныя элементы на адзенне (разнастайныя нашыўкі), абрусы, ручнікі (для кутасоў, махроў), Плоскія пляцёнкі з трох (у выглядзе касы) і больш каляровых нітак выкарыстоўвалі для вырабу паясоў, завязак, шнуркоў, нашывак на адзенне; пляцёнкі з тэкстыльных пасмаў — для дыванкоў-кружкоў на падлогу. Больш складаны від П. заснаваны на счапленні паміж сабой петляў адной ніткі і наз. вязаннем. Простым вузлом мацавалі махры па краях абрусаў, сурвэтак, пакрывал, ручнікоў. З дапамогай чаўнака (іглiцы) і дошчачкі вязалі рыбацкія сеткі (Паазер'е). Такія ж сеткі, нацягнутыя на раму, аздабляліся вышыўкай насцілам ці крыжам з каляровых шарсцяных нітак і ўжываліся як абрусы, сурвэткі, пакрывалы.

У наш час у традыцыйным выглядзе бытуе П. карункаў, сурвэтак і абрусаў, лазовых кошыкаў для садавіны і агародніны і інш. Шырока развіваецца яно як від дэкар.-прыкладнога мастацтва і таму значнае месца займае ў маст. прамысловасці. Фруктоўніцы, цукерачніцы, карзінкі, хлебніцы, падносы, шкатулкі, сумкі, насценныя пано, дробную пластыку з лазы, саломы, чароту, стружкі ў спалучэнні з ніткамі, пластыкам, шнурам выпускаюць Брэсцкая, Гродзенская, Магілёўская, Маладзечанская, Хойніцкая, Чачэрская, Мазырская і інш. фабрыкі маст. вырабаў. Вытворчасць гаспадарчых рэчаў з лазы, чароту наладжана ў калгасах Глускага, Светлагорскага, Любанскага р-наў.









нак з нітак і паскаў скуры. На Беларусі найбольш пашырана П. п. на пальцах, на сцяне, на калодачцы. Пры пляценні на пальцах на 3 сярэднія пальцы адной рукі і 2 (указальны і сярэдні) другой адзявалі па адной пятлі. Свабодным безыменным пальцам то правай, то левай рукі папераменна крайнія петлі з указальных пальцаў працягвалі ў сярэдзіну пляцёнкі. Узор «у слачку» ўтвараўся чаргаваннем каляровых нітак у петлях. Пляценне на сцяне (на спецыяльнай раме або любых паралельных перакладзінах) выконвалі пераплятаючы нацягнутыя ніткі пальцамі. Пляцёнка выплягалася адначасова з двух бакоў (пасярэдзіне ўтвараўся характэрны злучальны шоў). У паясах палатнянага і саржавага перапляцення пераважна бела-сіні, чырвона-фіялетавы ўзор (касыя палоскі, трохвугольнікі; характэрны для Віцебскай вобл.). Сетчатыя падоўжна-паласатыя паясы выплягалі пераважна на Палессі. Пляценне на калодачцы (цыліндрычнай або прамавугольнай з адтулінай пасярэдзіне, вакол якой забіты цвічкі без галовак) падобна на вязанне пруткамі: папярэдне адзетыя на цвічкі петлі па чарзе перапляталі з рабочай ніткай (звычайна белай або чырвонай). Для трываласці ўнутр пояса часам прапускалі пучок нітак. Выплягалі таксама паясы-шнуры вязаннем вузлоў. Акрамя паясоў аналагічнымі спосабамі плялі аздобу для адзення, чапцы, пастухоўскія пугі і інш.

*В. І. Селівончык.*

**ПО́БЫТ**, быт, уклад жыцця, сукупнасць спосабаў і форм жыццядзейнасці ў пазавытворчай сферы, непасрэднае задавальненне матэрыяльных і духоўных патрэб людзей у харчах, адзенні, жыллі, падтрыманні здароўя, спорце, аматарскіх занятках, адпачынку, забавах і інш. Да П. звычайна не адносяць вытворчую дзейнасць, але апошняя актыўна ўплывае на яго, нярэдка існуе неад'емна з ім у адзіным жыццёвым працэсе, што асабліва харак-



Пляценне паясоў на сцяне (палатняная пляцёнка).

Пляценне паясоў на сцяне.

Пляценне паясоў на сцяне (сеткаватая пляцёнка).

Пляценне паясоў на калодачцы.

Пляценне паясоў на пальцах.

Шырокую папулярнасць набыло вузельчыкавае П.— макрамэ. З ільняных, шарсцяных, віскозных, папяровых нітак, шнуроў, шпагату ў гэтай тэхніцы вырабляюць сурвэткі, насценныя пано, сумкі, кашолкі, кулоны. *Я. М. Сахута.*

**ПЛЯЦЕ́ННЕ ПАЯСО́Ў**, выраб паясоў у выглядзе круглых або плоскіх пляцёнак...

тэрна для архаічных форм гаспадарчай дзейнасці. Ва ўмовах патрыярхальнага ўкладу больш відавочна выяўлялася арганічная ўзаемасувязь чалавека і навакольнай прыроды. Беларусы здаўна сяліліся сярод лясоў, па берагах рэк і азёр, на краі балот. Іх паўсядзённы

побыт і працоўныя будні былі цесна звязаны з сезонна-кліматычнымі ўмовамі і мясцовым ландшафтам. Так, у лесе селянін збіраў дзікарослыя плады, грыбы, лекавыя травы, адшукваў мёд дзікіх пчол, птушыныя яйкі, высочваў дзічыну, рабіў падсочку дрэў, пасекі — *ляды* для земляробства, павышаў урадлівасць глебы попелам са спаленых дрэў. З лесу рабілі жыллё, гаспадарчыя пабудовы, узводзілі грамадскія і культавыя збудаванні. Дровамі абагравалі жытло. З кары дабывалі мачала для вяровак і рагож, лыка для лапцей і кашоў, луб для карабаў і інш. З дрэва выраблялі разнастайныя прадметы хатняга ўжытку, с.-г. прылады, транспартныя сродкі. Дрэва ў руках бел. майстроў-умельцаў ператваралася ў самабытныя творы нар. мастацтва. Вобразы мясцовай флоры і фауны, навакольных краявідаў і звязаныя з імі жыццёвыя сюжэты арганічна ўваходзілі ў паўсядзённы П. народа і жывілі яго багаты фальклор. Кожны сялянскі двор яшчэ ў пачатку 20 ст. выступаў як асобная вытворча-бытавая ячэйка, якая ў сельскай грамадзе была звязана цеснымі ўзаемаадносінамі і агульнымі нормамі *звычаёвага права. Талака* пры нарыхтоўцы лесу, будаўніцтве жылля і палявых работах, узаемадапамога суседзяў, звычай *бонды*, парадненне праз кумаўства, агульнае святкаванне сямейных і каляндарных урачыстасцей, *адведкі, вячоркі* — усё гэта збліжала аднавяскоўцаў на базе адзіных духоўных інтарэсаў і норм грамадскага жыцця. Асновай гаспадарчых заняткаў бел. сялян было земляробства, што абумовіла асабліва развітую сістэму аграрна-каляндарных традыцый, свят, абрадаў (гл. *Абрады, Святы і святочныя дні*). Аграрны *народны каляндар* ствараўся шматвяковымі назіраннямі, апрабаванымі ў працэсе мнагагранпай жыццядзейнасці. Ён быў строга размеркаваны па порах года, фазах і датах, з якімі працаўнік звязваў свае эканам. інтарэсы, натуральны рытм гаспадарчага і духоўнага жыцця. П. прыкметна адрозніваўся ў залежнасці ад сацыяльнай прыналежнасці, эканам. і сацыяльна-прававога становішча пэўных груп насельніцтва — пануючай знаці (магнатаў, служылай шляхты, буржуа), дробных землеўладальнікаў, розных катэгорый залежнага насельніцтва, жыхароў горада ці вёскі і інш. Паводле сфер свайго існавання вылучаюць вытворчы, грамадскі, сямейны, індывідуальны П. Паняццю П. бліжэй за ўсё тэрмін лад жыцця (гл. *Гарадскі лад жыцця, Сельскі лад жыцця*). З П. неад'емна звязана культура спажывання, або бытавая культура. Яна найбольш яскрава адлюстроўвае ўстойлівыя этнакультурныя традыцыі, таму часцей называецца традыцыйна-бытавой культурай. Яе элементы — *звычаі* і прывычкі, святы, абрады, *рэлігійныя вераванні, народная мараль, народны этыкет*, сістэма народных ведаў. Гіст. зрухі ва ўмовах матэрыяльнага жыцця, у сацыяльнай структуры, працэсы калектывізацыі і урбанізацыі абумовілі прыкметныя змены ў сучасным П. насельніцтва Беларусі. Аднак у наш час захоўваюцца асаблівасці ў П. гарадскога і сельскага насельніцтва, асобных сацыяльных груп, што непазбежна абумоўлена не толькі ўмовамі пражывання, але і сацыяльна-прафесійнымі інтарэсамі, асабістымі запатрабаваннямі і густамі. *В. С. Цітоў.*

**«ПО́ВАД»**, дзіцячая гульня, у аспоўным — хлапчуковая. Удзельнічаюць у ёй дзеці розных узростаў. Склад гульцоў можа быць і мяшаны. Перад пачаткам усе ўдзельнікі выстройваюцца адзін за адным у лінію і бяруцца за рукі, утвараюць «повад». Першым у калоне становіцца фізічна моцны хлапчук, ён жа і вядучы. Па сігналу ўсе гульцы бягуць за вядучым, які свядома вядзе «повад» у кручаным, разнастайным кірунку. Яго задача — хутчэй разбурыць «повад», утварыць з удзельнікаў «кучу-малу». Пашырана ў Цэнтр. Палессі. Зафіксавана ў Ельскім і Мазырскім раёнах. *М. А. Козенка.*

**«ПО́ВЕСТЬ ВРЕМЕННЫ́Х ЛЕТ»**, помнік усходнеславянскага летапісання; тое, што і *«Аповесць мінулых гадоў»*.

**ПО́ГРАБ**, гаспадарчая пабудова, якая служыць для захавання бульбы, гароднiны і інш.; тое, што і *склеп*.

**ПО́ДКУР**, драўляны памост вакол бортнага дрэва, што ахоўваў *борць* ад мядзведзяў. Называлі таксама падкур, адонак, памост, пасцель. Рабілі П. са шчыльна падагнаных грубых дошак (тарчыц), якія ў тры рады насцілалі на дубовыя бэлькі, урэзаныя ў ствол дрэва і ў тоўстыя сукі. Знізу мацавалі вострыя драўляныя, пазней жалезныя (даўжынёй да 1 м) штыры, каб мядзведзь не мог праламаць патыліцай насціл. Шырыню П. рабілі ў 1—1,2 м, што не дазваляла зверу дацягнуцца лапай да краю памоста. З распаўсюджаннем калодных вулляў на адзін П. пачалі ставіць па некалькі калод. Часта пад П. падвешвалі *самабітку*. *С. Ф. Цярохін.*

**ПО́КУЦЬ**, вугал, кут у хаце, дзе развешваліся абразы і стаяў засланы абрусам стол. За абедам на П. займаў месца гаспадар, каля яго паслядоўна па старшынству інш. члены сям'і; гл. ў арт. *Інтэр'ер хаты.*





**Подкур** з калодамі, самабіткамі і астраўкамі.

**Пол і палаці.** Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

**ПОЛ**, п а л о к, памост, што служыў спальным ложам. У традыцыйнай хаце рабілі каля печы (паміж пярэдняй сцяной і печчу на вышыні 0,8—1 м ад падлогі (гл. таксама ў арт. *Інтэр'ер*

*хаты*). З канца 19 ст. паступова знікае, функцыянальна яго замянілі драўляныя *ложкі*.

**ПОЛІЛІНГВІ́ЗМ** (ад грэч. polýs шматлікі + лац. lingua мова), шматмоўе, 1) валоданне і папераменнае карыстанне асобай некалькімі мовамі. 2) Аднačасовае суіснаванне ў адным калектыве або ў адным тэрытарыяльна-адміністрацыйным аб'яднанні некалькіх моў, якія ў сукупнасці выконваюць усе функцыі моўных зносін і ўтвараюць адзіную сацыяльна-камунікатыўную сістэму. Гл. таксама *Двухмоўе*.

**ПОЛІ́ЎКА**, даўняя рэдкая страва, падкалочаная мукой. Спачатку варылі мяса з прыправамі (цыбуляй, кропам), у посныя дні — грыбы, рыбу. Потым страву падкалочвалі мукой: невялікую яе колькасць разводзілі вадой і залівалі ў гаршчок (часам закалочвалі сухую муку), потым далівалі хлебны квас або сыроватку, бурачны расол. На Віцебшчыне ў П. дадавалі хлебную рошчыну. У Глыбоцкім, Пастаўскім р-нах П. гатавалі і са свіной крыві. На Глушчыне П. называюць булён ад мяса, рыбы. На Магілёўшчыне, Зах. і Цэнтр. Палессі П.— старая назва *заціркі*, *калатушы*. *Г. Ф. Вештарт.*

**ПО́ЛКА**, 1) кавалак тканіны ва ўсю першапачатковую шырыню. 2) Кавалак грубага палатна або палавіна посцілкі для пераносу сена ці травы. Называлася таксама лясёнка. Для зручнасці часамі па рагах П. прышывалі паскі.

**«ПО́ЛОЦКО-ВИ́ТЕБСКАЯ СТАРИНА́»** (да 1910 «Труды Витебской учёной архивной комиссии»), перыядычны зборнік навуковых прац, гістарычных артыкулаў, архіўных дакументаў. Падрыхтаваны і выдадзены *Віцебскай вучонай архіўнай камісіяй* у 1909—16 у Віцебску. Выйшлі 4 кнігі (выпускі): «Труды Витебской учёной архивной комиссии», кн. 1, 1910; «Полоцко-Витебская старина», кн. 1, 1911; вып. 2, 1912; вып. 3, 1916. У «П.-В. с.» надрукаваны працы і артыкулы «Полацкі князь Усяслаў і яго час» Дз. С. Леанардава, «Сказанні ісландскіх або скандынаўскіх саг пра Полацк, князёў полацкіх і р. Заходнюю Дзвіну» і «Гістарычны нарыс Віцебскай Беларусі» А. П. Сапунова, «Мястэчка Бешанковічы» І. С. Рабініна, мемуары ўдзельнікаў Айч. вайны 1812 на Беларусі, справаздачы аб працы Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. *М. І. Камінскі.*

**ПО́ЛЬКА** (чэш. polka ад půlka палавіна), чэшскі народны танец. У 1840-я г. быў пашыраны ў Еўропе як бальны танец. Увайшоўшы ў побыт беларусаў, П. трансфармавалася ў нацыянальным духу. У розных рэгіёнах узнікалі лакальныя варыянты, якія асіміляваліся з мясцовым харэаграфічным фальклорам і станавіліся народнымі. Лёгкасць пранікнення П. ў бел. харэаграфію абумоўлена пэўнай блізкасцю яе да бел. нацыянальных харэаграфічных традыцый (2-дольнасць метра, хуткі тэмп, прастата рухаў і кампазіцыйнай пабудовы, жыццярадасны настрой). Выконваецца па крузе ў парах, асноўны рух — паўкрокі з паваротам, якія ўпрыгожваюцца разнастайнымі дробнымі па (падскокамі, прысядкай, паваротамі і інш.). Бытуе ў мностве музычных і харэаграфічных варыянтаў, часткa суправаджаецца прыпеўкамі. У назвах бел. П. адлюстраваны тэрыторыя пашырэння («Барысаўская», «Віцяблянка»), асаблівасці харэаграфічнай будовы («Рассыпуха», «Вязанка»), характар лексікі і выканання («Крутуха», «Ківуха», «Драбней маку», «З прысюдамі», «На пяце», «Паважна», «Какетка»), эмацыянальны, часта гумарыстычны настрой («Шэльма», «Расцяпа», «Гопсясюся», «Злодзей»), звычкі і рухі жывёл, з'явы прыроды («Зайчык», «Бабачка», «Дожджык», «Вецер»), імёны дзейных асоб і колішніх лепшых выканаўцаў («Янка», «Альбіна», «Жукаўка»), назвы старадаўніх танцаў, з якімі злілася П. («Трасуха», «Мазурполька») і інш. *Ю. М. Чурко.*

**«ПО́МНІКІ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ БЕЛАРУ́СІ»**, інфармацыйны навукова-метадычны бюлетэнь *Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры*. Выдаецца штоквартальна на бел. мове ў Мінску з 1970. Разлічаны на масавага чытача. Друкуе матэрыялы пра гіст. помнікі бел. народа, яго культуры (нар. мастацтва, фальклор, архітэктура, выяўленчае мастацтва, літаратура, музыка), пра помнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў, пра помнікі братніх рэспублік і краін сацыялістычнай садружнасці. Асвятляе пытанні аховы, вывучэння і прапаганды помнікаў. Інфармуе пра работу Бел. т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры, змяшчае метадычныя распрацоўкі, кансультацыі, парады пярвічным арганізацыям. Ілюструецца каляровымі і чорна-белымі фотаздымкамі, малюнкамі. У бюлетэні друкаваліся этнографы, фалькларысты, краязнаўцы, даследчыкі нар. мастацтва і мастацкіх промыслаў В. К. Бандарчык, М. Ф. Піліпенка, В. С. Цітоў, С. Ф. Цярохін, У. С. Гуркоў, С. Л. Мілючэнкаў, Г. М. Курыловіч, Л. А. Малчанава, Я. М. Сахута, С. А. Сергачоў, В. В. Царашчатава, І. К. Цішчанка, Г. А. Каханоўскі і інш. *М. П. Гроднеў.*

**ПО́РАЗАЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з г. п. Поразава Свіслацкага р-на. У канцы 19 — пач. 20 ст. Поразава лічылася адным з буйных ганчарных цэнтраў Гродзеншчыны (каля 200 майстроў). Выраблялі чорнаглянцаваны посуд гаспадарчага прызначэння: гаршкі з накрыўкамі, збанкі, гладышы, міскі, бабачнікі, рынкі і інш.



Поразаўская кераміка.

У залежнасці ад аб'ёму вырабы мелі характэрныя мясцовыя назвы. Так, міскі былі малыя (да 1 л), сярэднія (1,5 л), вялікія (да 3 л); гаршкі дзяліліся на пітушкі (да 1 л), саганчыкі (да 2 л), скляпнікі (3 л), сярэднікі (да 10 л). Посуд вызначаўся буйнымі, выразна прафіляванымі формамі, падкрэсленымі глянцаваным дэкорам у выглядзе вертыкальных і касых рысак, пояскамі ўзораў, выціснутых зубчастым колцам (карбоўкай), частку вырабаў аздаблялі суцэльным глянцаваннем (калекцыя такога посуду пач. 20 ст., якая экспанавалася на Віленскай саматужніцка-прамысловай выстаўцы ў 1913, захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР). Сёння выбраюць чорнаглянцаваны посуд невялікіх аб'ёмаў і нешырокага асартыменту (гаршкі, збанкі, бабачнікі, міскі). Калекцыі П. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Дзярж. мастацкім музеі БССР і інш. *Я. М. Сахута.*

**ПО́РШНІ**, старадаўні скураны абутак накшталт лапцей; тое, што і *пасталы*.

**ПОСТ**, узаконены ў некаторых рэлігіях звычай, які забараняе ўжываць поўную ежу ў асобныя перыяды года і дні тыдня. Узнік у даўнія часы, калі з прычыны неразвітасці прадукцыйных сіл людзі не мелі дастатковай колькасці ежы і вымушаны былі галадаць ці абмяжоўваць норму харчавання. Гэтыя абмежаванні пазней былі ўзаконены царквой і прынялі форму забароны — табу. Некаторыя плямёны выкарыстоўвалі П. разам з цяжкімі фізічнымі выпрабаваннямі ў час ініцыяцый — прыняцця падлеткаў у паўнапраўныя члены племя. Пазней П. пачалі тлумачыць прыматам духу над грэшнай плоццю.

У праваслаўі існуюць 4 мнагадзённыя П.: вялікі, ці перадвелікодны сямітыднёвы (гл. *Вялікдзень*); пятроўскі ад двух да пяці тыдняў (гл. *Пятро*); спасаўскі і ўспенскі двухтыднёвы (гл. *Спас*); перадкалядны шасцітыднёвы (гл. *Каляды*). Веруючыя пасцілі яшчэ кожную сераду і пятніцу (у час мнагадзённых і аднадзённых пастоў нельга было есці мяса, сала, масла, малако, смятану). Пасцілі таксама ў дні *Івана Галавасека* (29 жніўня с. ст.), *узвіжання* (14 верасня с. ст.), напярэдадні *вадохрышча* і ў інш. дні. Усяго ў праваслаўі было больш за 200 дзён «посных». У гэтыя дні веруючыя павінны былі пасціць і хадзіць да споведзі; забаранялася ўдзельнічаць у гульнях, забавах (спяваць, танцаваць, заключаць шлюбы і спраўляць вяселлі). У каталікоў П. быў не такі строгі. Яны не прытрымліваліся мнагадзённых П. У дні П. хворым і дзецям дазвалялі ўжываць малочную страву. У большасці выпадкаў пачыналі пасціць у першую сераду перадвелікоднага П., у пятніцу і напярэдадні *прачыстай*, у перадкалядны дзень (на першую, ці посную, *куццю*). У мусульман існуе П. ураза, у час якога на працягу ўсяго месяца рамазан ад усходу да заходу сонца веруючым не дазваляецца есці, піць, курыць і г. д. Існавалі П. па ахвяраванню і зароку, а таксама выкупы за парушэнне карана ці шарыяту. У іудаізме пашыраны грамадскія П. з нагоды жалобы, пакаяння ці розных падзей у гісторыі яўрэйскага народа, індывідуальныя П. па зароку-ахвяраванню. Большасць пратэстантаў не прытрымлівалася П. (за выключэннем англіканскай пратэстанцкай царквы), хаця ў адвентыстаў сёмага дня існуе забарона на некаторыя стравы, каву і г. д. У сучасных рэлігіях (хрысціянстве, ісламе, іудаізме) заўважаецца больш гібкі падыход да культу, у прыватнасці да П. (менш строгае патрабаванне іх выканання). Варта адзначыць, што адзін ці два дні П. ў тыдзень («разгрузачныя дні») карысныя для здароўя чалавека. Але мнагадзённыя, тым больш многатыднёвыя, П. аслаблялі здароўе, асабліва ў дзяцей, старых, цяжарных жанчын. *Л. І. Мінько.*



Фаянсавы **посуд**. Масленіца. Канец 19 — пачатак 20 ст.



Бытавы **посуд** ручной лепкі. 3—1 ст. да н. э.




Шкляны **посуд**. Графін, бакал і флет. Урэцка-налібоцкая мануфактура. Канец 18—1-я палова 19 ст.

**ПО́СУД**, прадметы бытавога, гаспадарчага і утылітарна-мастацкага прызначэння для прадуктаў харчавання, страў, вадкасцей. Адносна матэрыялу бывае металічны (чыгунны, медны, алюмініевы, латунны, алавяны, мельхіёравы), керамічны (гліняны, фарфоравы, фаянсавы), драўляны, саламяны, лубяны, шкляны, пластмасавы і інш. Паводле выканання — каваны, літы, штампаваны, выдзеўбаны, бандарны, такарны, плецены і інш. Нярэдка П. аздабляецца разьбой, размалёўкай, палівай, гравіраваннем, выпальваннем, чаканкай, лепкай і інш.

На Беларусі працейшы П. з дрэва і кары вядомы з часоў верхняга палеаліту. У неаліце набыў пашырэнне гліняны П. ручной лепкі, спачатку вастрадонны, пазней — кругладонны; у канцы неаліту — пласкадонны, нярэдка амаль па ўсёй паверхні аздоблены выціснуты-

мі ямкамі, наколамі, адбіткамі грэбеня. Багата дэкарыраваўся гліняны П. (гаршкі, амфары, міскі, кубкі) у бронзавым веку, аднак у 1-й пал. 1-га тысячагоддзя дэкор стаў больш сціплым. У перыяд Кіеўскай Русі, з развіццём феадальнай дзяржавы і пераходам да рамесніцкай вытворчасці выпрабаў, форма і асартымент П. сталі больш разнастайнымі. Прымяненне ганчарнага круга і такарнага станка дало магчымасць наладзіць масавую рамесніцкую вытворчасць глі-

мястэчках выраблялі літы з волава і каваны з медзі П. (гл. *Медніцтва*).

У нар. побыце ў шырокім ужытку быў пераважна самаробны П. з дрэва, гліны, кары, лубу, бяросты і інш. простых і даступных матэрыялаў. Багаты асартымент вырабаў гаспадарчага і утылітарна-мастацкага прызначэння (гаршкі, збанкі, гладышы, слоікі, спарышы, макатры, глякі, міскі, талеркі, кубкі і інш.) уключаў ганчарны П. (гл. *Ганчарства*). Ён вызначаўся простымі канструкцыйнымі формамі, падкрэсленымі нескладаным дэкорам (хвалістыя выціснутыя паяскі на плечуках, ангобны

прызначэння для сыпкіх прадуктаў — ад маленькіх гарчыкаў і корабаў да вялікіх у рост чалавека кублаў і шыяноў на збожжа (гл. *Пляценне*, *Саломапляценне*).

Традыцыйны нар. П. вызначаецца прастатой і лагічнасцю форм, ярка выяўленай функцыянальнасцю. Некаторыя дробныя прадметы, што займалі прыкметнае месца ў інтэр'еры нар. жылля (талеркі, збанкі, сальніцы, карцы, кубкі), мелі сціплы разьбяны ці маляваны дэкор геаметрычнага, стылізаванага расліннага ці заамарфнага характару, які захоўваў стараж. сім-



Ганчарны **посуд.** Гарадскі пасёлак Мір Карэліцкага раёна. 1979.



**Посуд** з каляровых металаў. Пацір. Серабро, золата, чаканка, эмалі. Канец 15—16 ст.

нянага і драўлянага П., які вызначаўся дасканалымі адточанымі формамі. Набыў пашырэнне выдзеўбаны, бондарны, плецены П. Пры раскопках стараж. гарадоў трапляецца імпартны П. са шкла, каляровых і каштоўных металаў. З расслаеннем грамадства на класы розны характар набыў і П. Рамеснікі, якія абслугоўвалі патрэбы заможных класаў і царквы, выкарыстоўвалі для П. шкло, фарфор, каштоўныя і каляровыя металы; багата аздаблялі вырабы роспісам, чаканкай, гравіраваннем, разьбой (пры гэтым часта абапіраліся на агульнаеўрапейскія мастацкія дасягненні). У 18 ст. ўзніклі мануфактуры па вытворчасці мастацкага П. Шырокую вядомасць набылі фаянсавыя вырабы з ляпнінаю і роспісам Целяханскай і Свержанскай мануфактур, шкляныя з гравіраваннем і роспісам з Урэчча, Налібак і інш. У многіх гарадах і

роспіс у выглядзе рысак і паяскоў), ярка выяўленым натуральным колерам чарапка з маляўнічымі пацёкамі палівы ці характэрным дэкорам, набытым у працэсе апрацоўкі (чорна-карычневыя плямы пры загартоўцы, бліскучыя палоскі на матавым чорным фоне пры дымленні). П. рознага прызначэння і ёмістасці выраблялі з дрэва. У залежнасці ад тэхналогіі ён падзяляўся на *бандарныя вырабы* (кадушкі, дзежкі, бочкі, барылкі, цэбры, ражкі, кублы, вёдры, даёнкі, бойкі і інш.), *выдзеўбаны посуд* (начоўкі, кадаўбы, міскі, карцы і інш.), такарны (сальніцы, ступкі, міскі, талеркі і інш.; гл. *Такарнае рамяство*), збіваны (скрыні, карыты, сальніцы і інш.). З бяросты выраблялі П. для каштоўных прадуктаў (бочачкі на мёд, сальніцы і інш.; гл. *Берасцяныя вырабы*); з лубу — ёмістасці на збожжа, пасенне, садавіну (лубянкі, рэшаты, сявенькі). З лазы, лыка, саломы плялі П. розных форм і

валічную ролю (ручкі карцоў у выглядзе конскіх ці птушыных галовак, хвалістыя ангобныя ці выціснутыя палоскі на плечуках глінянага посуду — стараж. сімвал вады, і інш.). З канца 19 ст. ў сувязі з сацыяльна-эканам. зменамі ў нар. побыце, інтэнсіўнымі сувязямі вёскі з горадам значна пашырыўся асартымент традыцыйнага П., узбагаціліся прыёмы і сродкі аздаблення. Нар. майстры імкнуліся паўтараць формы і дэкор прамысловых вырабаў, інтэрпрэтуючы іх у адпаведнасці з мясцовымі традыцыямі і ўласнымі густамі. У нар. побыце пашыраюцца гліняныя вазы, цукарніцы, масленіцы, сальніцы з роспісам і ляпнінаю, фігурныя ляпныя пасудзіны для вадкасцей, драўляныя талеркі з разьбой і інш. Выраб многіх відаў П. (ганчарнага, бандарнага, такарнага, плеценага) набыў характар

шырока развітага промыслу. Некаторыя віды П. мелі пэўную ёмістасць і служылі мераю вадкіх і сыпкіх рэчываў (напр., *бочка віленская, гарнец, кварта* і інш.). У наш час сфера прымянення самаробнага П. утылітарнага прызначэння звужаецца, у шырокі ўжытак уваходзяць больш зручныя, танныя, гігіенічныя шкляныя, металічныя, пластмасавыя, фарфоравыя вырабы пра-





Паясы Магілёўшчыны (злева) і Цэнтральнай Беларусі.

мысловай вытворчасці. Характар, формы і дэкор традыцыйнага П. выкарыстоўваюць для стварэння вырабаў утылітарна-мастацкага і сувенірнага прызначэння. Плеценыя з саломы і лазы фруктоўніцы, цукерачніцы, латкі, падносы, кошыкі, драўляныя чарпакі, лыжкі, наборы для спецый з разьбой і размалёўкай, гліняныя кубкі, блюды, вазы, наборы для квасу, вады, малака ў характэрным нацыянальным стылі выпрацоўваюць прадпрыемствы мастацкай прамысловасці і майстры традыцыйных *народных мастацкіх промыслаў*. Стварэнне мастацкага П.— важны раздзел сучаснага прафесійнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. *Я. М. Сахута.*

**ПО́СЦІЛКА**, узорыстатканы выраб утылітарнага, дэкаратыўнага, а ў мінулым і абрадавага прызначэння; від мастацкіх тканін. Тэхнікай выканання, памерам, кампазіцыйна-арнаментальным вырашэннем блізкая да дывана. П. засцілаюць ложак, ёю накрываюцца, яе вешаюць на сцяну для ўпрыгожвання інтэр'ера сялянскай хаты; П. засцілалі выязныя сані і вазкі, клалі маладым пад ногі ў час благаславення іх у вясельным абрадзе, лічылі важнай часткай пасагу маладой. Грубатканую П. называюць *радзюжкай*.

Традыцыйныя П. ткалі ў 3—4 ніты або перабіранай («на дошчачку», «на пруткі», «на матузы», «у пераборы») ці шматнітовай тэхнікай ткацтва. Паводле формы прамавугольныя (1,5—2,3 м даўжыні, 0,9—1,5 м шырыні) з двух (рэдка аднаго) кавалкаў тканіны з ільняных нітак (або аснова льняная, уток ваўняны). Вызначаліся разнастайнасцю арнаментальных кампазіцый, каларытам. У мастацкім афармленні найбольш характэрныя кампазіцыі з геаметрычных форм арнаменту, утвораных спалучэннем двух колераў (бела-чорны, вохрыста-чорны, малінава-чорны, бела-карычневы). Побач з узорамі клетак, паскаў пашыраны двухкаляровы арнамент «дымкі», «імгліцы», «ваконцы», «краткі», «кружкі». Сустракаюцца чырвона-бардовыя, малінавыя, жоўтыя, белыя малюнкі зорак, вазонаў, кветак на чорным фоне. Стрыманы каларыт ранейшых па часе П. абмяжоўваўся натуральным колерам матэрыялаў і адценнем фарбаў, якія рабілі ў хатніх умовах з кары дрэў, кветак, раслін і г. д.

У наш час П. ўвайшла ў інтэр'ер гарадской кватэры і вясковай хаты. Іх выраблюць на фабрыках мастацкіх вырабаў, а таксама па-ранейшаму ткуць на кроснах, але з баваўняных, акрылавых, віскозных, шаўковых нітак машыннага прадзення. Нар. майстрыхі, якія ткуць П. для ўласных патрэб, выкарыстоўваюць самапрадзеныя ніткі воўны, афарбаваныя анілінавымі фарбавальнікамі. Замена сыравіны і фарбавальнікаў паўплывалі на дэкаратыўныя і пластычныя якасці П. Зберагаюцца П. ў Музеі этнаграфіі народаў СССР, Дзярж. музеі Беларускай ССР, Раўбіцкім музеі бел. нар. мастацтва, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР. *М. Ф. Раманюк.*

**ПО́ЯС**, пас, скураная або плеценая, тканая, вітая з нітак доўгая вузкая стужка для падпярazвання. Лакальная назва апаяска. Вядомы з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя. На Беларусі бытавалі пераважна П. тканыя (гл. *Ткацтва паясоў*), плеценыя (гл. *Пляценне паясоў*) і вітыя (гл. *Віццё мастацкае*), а таксама вязаныя пруткамі і кручком (даўжынёй 150—300 см, шырынёй 1,5—30 см). Арнаментыка нар. П. вызна-

чаецца разнастайнасцю геаметрычных узораў: падоўжныя, папярочныя і касыя палоскі, крыжыкі, грабеньчыкі, ромбы. П. аздаблялі кутасамі, махрамі, бісерам, уплеценым паміж тканымі палоскамі, саламянымі ўстаўкамі, нашытымі кавалачкамі тканіны. Пераважала спалучэнне колераў чырвонага з белым фонам (у невялікай колькасці ўводзіўся жоўты, сіні, зялёны, чорны). Шматколерныя ўзоры характэрны для П. Заходняга Палесся. Сусветную вядомасць атрымалі шаўковыя *слуцкія паясы*.

П.— неад'емная частка нацыянальнага адзення беларусаў. Ім падпяразвалі кашулі і верхняе адзенне (мужчынскія П. былі звычайна шырэйшымі за жаночыя і дзіцячыя). Завязвалі іх вузлом спераду або збоку, абкручваючы вакол стану ў залежнасці ад памераў 1—3 разы, падтыкалі па баках так, каб канцы звісалі на 20—40 см. На П. ці за П. насілі сякеру, нож, *шабету*, капшук, грабеньчык, ключы. Ідучы ў поле або ў лес, на П. неслі збан з вадой, каробку, палатняную торбу, спарыш з абедам. Спецыяльным П.— *спавівачом* — спавівалі немаўлят, вузкія ўзорыстыя П.-падвязкі служылі і *аборамі*. Паясы-крайкі прышывалі да спадніц і фартухоў, а вузкімі плеценымі або вітымі П. абшывалі каўняры, барты і рукавы світ, падолы спадніц.

Важнае месца адводзілася П. ў розных абрадах, асабліва вясельным. Дзяўчына дарыла П. сватам у час сватання, жаніху разам з кашуляй і нагавіцамі напярэдадні вяселля, бацьку і маці жаніха, музыкам і інш. удзельнікам вяселля. У час вянчання пад ногі маладым клалі П. і ручнік, да стала маладую вялі таксама на П. На другі дзень пасля вяселля, падмятаючы ў хаце, маладая завязвала П. на венік, а ідучы па ваду, клала П. разам з кавалкам караваля на студню. На розных этапах вяселля маладой даводзілася дарыць да сотні П. (таму дзяўчына пачынала рабіць П. задоўга да вяселля). П. абвязвалі першы сноп ураджаю, які ставілі ў хаце на покуці. У час пахавання на П. вялі каня, які вёз на могілкі нябожчыка. П. прыпісваліся розныя магічныя функцыі: лічылі, што П. надае чалавеку сілу, аберагае ад хвароб і няшчасных выпадкаў. Каб у будучым сямейным жыцці быў дастатак, дзяўчына перад шлюбам развешвала П. ў хляве, свірне, над скрыняй. Перад Новым годам гаспадыня звязвала П. папарна розныя прадметы, каб жывёла ў гаспадарцы «паравалася».

На Беларусі П. паўсюдна выраблялі да 1930-х г. (на Зах. Беларусі і ў 40-я г.). У наш час П. ткуць у вёсках Ганцавіцкага раёна (гл. *Ганцавіцкія паясы*). З сярэдзіны 50-х г. на Слуцкай фабрыцы мастацкіх вырабаў у традыцыйнай тэхніцы ткання на ніту выраблююць П., гальштукі, закладкі, пано і інш. Лепшыя ўзоры традыцыйных П. захоўваюцца ў Дзярж. музеі этнаграфіі народаў СССР (Ленінград), у Дзярж. мастацкім музеі БССР.

*В. І. Селівончык.*

**ПРА́ЖСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура славянскіх плямён, якія ў 6—7 ст. насялялі тэрыторыю ад Эльбы на З да Дняпра на У і ад Прыпяці і Віслы на Пн да Дуная на Пд. Ва Усх. Еўропе (паміж Зах. Бугам — Днястром і Дняпром) мае назву культуры тыпу Карчак. На яе аснове тут утварылася культура тыпу Лукі Райкавецкай (8—9 ст.). Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам і бортніцтвам, былі развіты апрацоўка металаў і разнастайныя хатнія рамёствы. Невялікія селішчы плошчай ад 0,3 да 1,2 га размяшчаліся па берагах рэк на спадзістых схілах 1-й надпоймавай тэрасы групамі па 3—5 у кожнай. Жытлы з бярвён слупавой канструкцыі прамавугольнай формы (даўжыня сцен ад 2,5 да 5 м), заглыбленыя ў зямлю ад 0,2 да 1,2 м, размяшчаліся часцей за ўсё групамі або бессістэмна. У 8—9 ст. яны будаваліся паралельнымі радамі. Падлога земляная, часам абмазаная глінай або вымашчаная дошкамі. Стрэхі 2-схільныя. У сярэдзіне жытлаў, у далёкім ад уваходу куце былі печы-каменкі круглай або авальнай формы, трапляюцца глінабітныя печы. У 8—9 ст. паявіліся паўзямлянкі зрубнай канструкцыі. Насельніцтва вырабляла высокія слабапрафіляваныя ляпныя гаршкі з максімальным расшырэннем тулава ў верхняй частцы, звужаным горлам і дном, апушчаным плечуком, кароткай прамой або ледзь адагнутай шыйкай і глыбокія міскі з вузкім дном, а таксама гліняныя патэльні з кароткімі і прыўзнятымі краямі. У 8—9 ст. посуд набыў больш развітую, прафіляваную форму: адагнутую шыйку, прыўзнятыя плечукі, больш пукатае тулава, шмат пасудзін арнаментавана па краі венчыка ямкамі і на плечуку ямкамі і хвалістымі лініямі. Сярод упрыгожанняў 8—9 ст. бронзавыя бранзалеты з расшыранымі канцамі, гітарападобная спражка, 7-прамянёвае кольца і інш.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**ПРАЖЭ́ЛЬНІК,** ганчарны выраб; нізкая гліняная пасудзіна з дугападобнымі ручкамі па баках або без іх (называлі таксама патэльня). Ужывалі для смажання (пражання) мяса, яечні і інш. страў, часам для сушэння ягад, грыбоў. У 1-й пал. 20 ст. ў некаторых ганчарных цэнтрах Паўн. і Зах. Беларусі П. выраблялі чорназадымленым і гартаваным. У наш час выйшаў з ужытку.



Пражэльнік.

**ПРА́ПІК,** пляскаты драўляны брусок з ручкай, якім перылі (пралі) бялізну пры мыцці, палотны пры адбельванні; ім таксама абівалі лён, проса. На Беларусі вядомы з 11—12 ст.



Прапік.

**ПРАПІЛО́ЎКА,** тэхніка стварэння ажурнага скразнога ўзору па дошках для аздаблення збудаванняў. На дошку ад рукі ці па шаблону наносяць малюнак, з якога лучковай пілой з вузкім палатном (лобзікам) выдаляюць адпаведныя ўчасткі фону. Пашырылася ў канцы 19 ст. Аздаблялі П. ліштвы акон (раслінны, геаметрычны, заамофрны ўзоры). Найбольшае пашырэнне меў матыў у выглядзе 2 S-падобных раслінных завіткоў, павернутых у процілеглыя бакі. Закрыліны па краях страхі і карнізы па перыметры зруба выпілоўваліся па ніжнім краі ў выглядзе паўкругоў, зубцоў. Вільчакі мелі контуры двух галоў каня, рагоў, птушак, кветак і інш. Асаблівай дасканаласці і багацця матываў П. дасягнула на Гомельшчыне, Віцебшчыне, Магілёўшчыне (гл. *Веткаўская разьба*). У наш час П. бытуе паўсюдна, пераважна ва Усх. і Цэнтр. Беларусі, і з'яўляецца адным з самых папулярных відаў сучасна-



**Прапілоўка.** Дэкор на браме. Горад Ветка. 1950-я г.

га *народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.* Ёю аздабляюць ліштвы, франтоны, вільчакі, вуглы, веранды, ганкі, вароты, брамы. Традыцыйны раслінны і геаметрычны дэкор дапаўняецца сучаснай эмблематыкай. Ажурны прапілаваны малюнак часта падкрэсліваецца паліхромнай размалёўкай.

*Я. М. Сахута.*

**ПРА́СЛІЦА,** гліняны або каменны грузік з адтулінай у цэнтры, які надзявалі на верацяно, каб павялічыць інерцыю яго вярчэння. Рабілі звычайна шара- ці грушападобнай формы, упрыгожвалі нескладаным арнаментальным узорам, радзей — надпісамі. Паявіліся ў познім неаліце з узнікненнем прадзення і ткацтва.

**ПРАСНА́К,** даўняе хлебнае печыва ў выглядзе тоўстага бліна. Пяклі з жытняй мукі без закваскі, на содзе і сыроватцы. Цеста замешвалі крута, як на хлеб; выпякалі на патэльні. Каб П. не патрэскаўся, на ім (звычайна пальцам) рабілі неглыбокія дзірачкі. Спечаны П. пасыпалі соллю, кменам, змазвалі здорам; елі замест хлеба. Пяклі П. таксама з хлебнага цеста, якое яшчэ добра не падышло (Міншчына, Мсціслаўшчына, Чэрвеньшчына). Такі П. называлі пробай хлеба. Калі не хапала мукі, П. пяклі з тоўчанай варанай бульбы і мукі (Брэсцкі р-н). Часам на П. бралі рашчыненае на бліны



**Прапілоўка.** Падстрэшак.
Вёска Сырмеж Мядзельскага раёна. 1920-я г.

цеста, крута яго замясіўшы. Пяклі П. і спецыяльна на квас. Месцамі П. называюць недакіслы хлеб. Вядомы паўсюдна.

*Г. Ф. Вештарт.*

**ПРА́СНІЦА,** драўляная прылада для прадзення воўны, льняной і пяньковай кудзелі. Вядомы 4 асноўныя тыпы П.: лапатападобная, П.-грэбень, П.-віла, П.-кій. Найбольш пашыраны лапатападобная і П.-грэбень (Прыпяцкае Палессе). Лапатападобныя П. рабілі з суцэльнага кавалка дрэва (частка ствала з карэнішчам) ці з 2 частак — лопасць пад прамым вуглом устаўлялі ў днішча або ў адтуліну ў лаве (Зах. Палессе). Лопасць звычайна рабілі прамавугольнай формы з адносінамі бакоў 2:1, сустракаліся таксама вёсла-падобныя (Лідчына), мечападобныя (Брэстчына), П.-дошчачкі (мацаваліся да калаўрота) і інш. П. аздаблялі разьбой — фігурна апрацоўвалі ножкі, выпілоўвалі краі лопасці (Навагрудчына). На Гродзеншчыне, Віцебшчыне лопасць часам аздаблялі трохгранна-выемчатай ці контурнай разьбой у выглядзе шматпялёсткавых разетак, зубчыкаў, сілуэтаў птушак, жывёл (на вонкавым баку). Асаблівым багаццем і разнастайнасцю разнога дэкору вызначаюцца П. на З Брэстчыны (т. зв. камянецкія П.). У наш час са змяншэннем ролі ручнога прадзення і ткацтва П. паступова выходзяць з ужытку.

*Я. М. Сахута.*

**«ПРАСЦЯ́К»,** традыцыйны танец. Называўся таксама «Просты», Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. Атрымаў назву «П.» таму, што вельмі просты ў выкананні. Танцоры, якія сталі у два рады (адзін насупраць другога), сыходзяцца да сярэдзіны танцавальнай пляцоўкі, потым вяртаюцца на месца (асноўны крок — пераскокі з нагі на нагу з аднычасовым вынясеннем свабоднай нагі ўперад). Кожная фігура завяршаецца трайным прытупам. Сустракаюцца варыянты, у якіх адзін рад выкапаўцаў танцуе на месцы, другі падыходзіць да яго і вяртаецца на месца, потым мяняюцца ролямі. Танец суправаджаецца прыпеўкай, якая выконваецца ў форме дыялога танцораў аднаго рада з другім:

— Патаптаўся чаравік на назе,
Нагневаўся мой мужык на мяне,
Я думала — за сто міль пабяжыць,
Азірнулась — каля боку ляжыць.
Не хадзі ты, зелянец, за мяне,
Мая маці да не любіць цябе,
Мая маці да шаўца, да краўца,
Каб пашылі чаравічкі дачцэ.

Вядомы варыянты парнага выканання «П.». Танцоры (адзін насупраць другога) станавіліся кругам і выконвалі асноўную фігуру, але не па лініях, а ў парах. Час ад часу, пасля выканання асноўнай фігуры, у танец уключалі паварот полькай у пары па крузе, а таксама паварот дзяўчыны пад рукой у хлопца. Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

*С. У. Клімовіч.*

**ПРАЧЫ́СТАЯ,** летняе свята *народнага календара,* якое адзначалі 15 жніўня н. ст. Праваслаўнай царквой святкуецца як дзень успення маці боскай. Называлася таксама ўспленне, спажа, зельная. Назва ўспленне тлумачылася ў народзе тым, што ў гэты дзень ужо спелыя плады і часткова яравая збажына. На П. ў царкве асвячалі хлеб, зеляніну. Асвечанае жыта, перамяшаўшы з астатнім, адкладвалі да новай



**Прасніца.** Камянецкі раён.



**Прапілоўка.** Карніз і ліштвы.
Вёска Тарасаўка Веткаўскага раёна. 1950-я г.

сяўбы, каб прычакаць на наступны год добрага ўраджаю. У нар. песнях гэты дзень згадваецца ў сувязі з разнастайнымі с.-г. работамі: «Прачыста снапкі падае», «на восець носіць», «папары мяшае», «пчолак ладзіць, кадкі мёдам налівае». П. была для земляроба святам ураджаю, падвядзеннем вынікаў яго працы: «Свята прачыста — у полі ўрачыста», «Спажа — хлеба дзяжа». Адразу пасля П. пачыналася сяўба азіміны, пра што нагадвала прыказка «Успенне — ці гатова насенне?». П. называлі звычайна першай, або вялікай, каб адрозніць ад другой (меншай) П.— *багача.* Разам з *пакровамі* гэтыя тры святы ўтваралі багародзіцкія святкі («Прыйшлі святкі — апалі ліценкі»).

*У. А. Васілевіч.*

**ПРО́ВІДКІ,** земляробчы абрад, звязаны з пачаткам вясновых палявых работ.

Называліся таксама правідкі. За некалькі дзён да ворыва (гл. *Заворванне*) селянін ішоў у поле, браў з сабою загорнутыя ў чысты ручнік хлеб, соль, а таксама асвечаныя галінкі вярбы. Паклаўшы на мяжы хлеб і соль, ён абыходзіў поле і ўтыкаў галінкі вярбы па краях палеткаў. Калі П. прыходзіліся на тыдзень пасля вялікадня, араты браў с сабою велікодныя яйкі, шкарлупінне ад якіх пасля трапезы закопваў на мяжы, а зверху клаў камяні. П. адлюстроўвалі рэшткі язычніцкай магіі, у нар. уяўленні выступалі як прафілактычная мера і выконвалі функцыю абярэга. Найбольш распаўсюджаны былі на ПнУ Беларусі.
*В. С. Цітоў.*

**«ПРО́СА»,** старажытная народная гульня. Называлася таксама «Ляда». Удзельнікі становяцца ў два рады, у адзін рад — хлопцы, у другі насупраць — дзяўчаты. Узяўшыся за рукі, спяваюць па чарзе: «Дзеўкі проса сеялі, сеялі» — «А мы проса вытапчам, вытапчам». Заканчваецца песня словамі: «Мы дзевачку забяром, забяром».— «Мы вам коней аддаём, аддаём». Затым хлопцы забіраюць дзяўчыну ў свой рад або ловяць удзельніка, які бяжыць паміж радамі («Ляда»). Гульня спыняецца, калі ўсе ўдзельнікі з аднаго рада пяройдуць у другі. Вядома ўсім усх. славянам. Аграрна-магічныя элементы ў ёй арганічна з'яднаны са шлюбнай сімволікай. Праглядаецца каляндарная прымеркаванасць «П.» да веснавых магічных абрадаў падрыхтоўкі ляда, сяўбы, выкрадання і «продажу» дзяўчат («Мы дзевачку прададзім, прададзім»). Верагодна, гульня праводзілася ў гонар язычніцкіх божышчаў Ярылы і Лады. У некаторых тэкстах песень захаваўся і архаічны прыпеў «Ой, Дзід са Ладаю...». Н. Ціханіцкая сцвярджае, што вытоптванне проса першапачаткова не было варожым актам: у песні меўся на ўвазе абмалот яго нагамі людзей і коней. На аснове традыцый «П.» маглі ўтварыцца пазней гульні «Лянок» («А мы сеялі, сеялі лён»), «У каноплі» і інш. са шлюбнай тэматыкай і сваімі адметнымі сюжэтамі.
*А. Ю. Лозка.*

**ПРО́ЦЯГ,** від вышыўкі. Называлася таксама націг, завалаканне. Арнаментальная паласа, вышытая П., складаецца з пэўнай колькасці радкоў: нітку працягваюць па ўсёй даўжыні ўзору паралельна лініі ўтку (радзей асновы); канец і пачатак кожнага радка замацоўваюць 2—3 шыўкамі. Геаметрычны ўзор утвараецца чаргаваннем вонкавых і адваротных шыўкоў, якія пракладваюць праз пэўную колькасць нітак тканіны, што абумоўлівае строгую дакладнасць арнаменту (вонкавым выглядам падобны на ўзор *бранага ткацтва*). Для вышыўкі П. выкарыстоўвалі баваўняныя, пераважна чырвоныя, ніткі, край і сярэдзін лініі арнаментальнай паласы часам выдзялялі чорнымі або сінімі ніткамі. Вышыўкай П. аздаблялі звычайна рукавы, каўняры, падолы кашуль, фартухі, наміткі. Сустракалася на ўсёй Беларусі.

**ПРО́ШЧА** (крыніца, возера, камень, узгорак і г. д.), месца, надзеленае паводле ўяўленняў веруючых незвычайнымі надпрыроднымі сіламі і ўласцівасцямі. У навуковы ўжытак тэрмін «П.» увёў у пач. 20 ст. М. А. Янчук. П. называлі таксама маленне аб дараванні грахоў з ахвярапрынашэннямі ў якім-небудзь «святым» ці «цудоўным» месцы. Вера ў П. генетычна звязана з культам прыроды. Некаторыя П. ўзніклі з язычніцкіх свяцілішчаў. Аднак этнографамі зафіксавана ўзнікненне П. і ў 19—20 ст., калі з пэўным месцам звязвалася якая-небудзь падзея, што лічылася цудам (напр., хуткае пазбаўленне ад хваробы). П. пакланяліся, іх наведвалі, каб пазбавіцца ад хвароб, рабілі ахвярапрынашэнні (палатно, ручнікі, кветкі, ежу, грошы і інш.). Значная частка П. была прызнана хрысціянскім духавенствам і знаходзілася пад яго апекай. Каля такіх П. нярэдка будавалі капліцы, цэрквы, касцёлы, у дні рэлігійных свят наладжваліся хрэсныя хады і богаслужэнні. Часта П. лічыліся некаторыя камяні з незразумелымі надпісамі, камяні-следавікі, паглыбленні на якіх нагадвалі формай чалавечую ступню, што лічылі следам боскай маці, крыніцы і калодзежы, вада з якіх нібыта вылечвала ад пэўных хвароб (пераважна вачэй), некаторыя азёры (напр., Свіцязь, вядомае пад назвай «Святое»), узгоркі (пераважна самыя высокія ў пэўнай мясцовасці), некаторыя адметныя дрэвы. Найбольш вядомымі П. былі Сіняя Крыніца каля Слаўгарада, Святая Горка каля Смілавіч (гл. ў арт. *Гудавіцкае свяцілішча*), Мар'іна Горка ў Пухавіцкім раёне, нагрувашчванне вялізных камянёў на ўзгорку каля в. Горка Дзятлаўскага р-на, камяні-следавікі пад Навагрудкам, каля в. Мэйры Лідскага раёна, на Трацкай гары ў Мінску, на паўдарозе са Слуцка ў в. Грозава, дуб каля в. Палыкавічы Магілёўскага р-на, ліпа каля в. Капланцы Бярэзінскага р-на і інш.

У пэўнай меры да П. прымыкаюць некаторыя камяні (Чортавы, Змеевы, камяні-краўцы, з выявамі слядоў жывёл). Каля іх не маліліся і не прыносілі ахвяраванняў, аднак яны карысталіся пэўнай пашанай сярод насельніцтва. П. на Беларусі даследавалі М. В. Доўнар-Запольскі, Янчук, Ф. В. Пакроўскі, Е. Р. Раманаў, А. Я. Багдановіч, М. В. Мялешка.
*Э. М. Зайкоўскі.*

**ПРУГІ́,** прылада для раўнамернага расцяжэння тканіны ў працэсе ткання; дзве рухома змацаваныя (не па цэнтры) вузкія дошчачкі з цвічкамі на канцах. Называлі таксама распорка, шпарутка. П. клалі на палатно, пратыкаючы яго цвічкамі па краях, распрамлялі іх і расцягвалі тканіну.



Вышыўка **працягам** (фрагмент фартуха).

**ПРУЖА́НСКАЯ КЕРА́МІКА,** ганчарныя вырабы майстроў з г. Пружаны, які ў 19 — 1-й пал. 20 ст. быў вядомы як адзін з буйнейшых ганчарных цэнтраў паўд.-зах. Беларусі (налічвалася больш за 200 ганчароў). Тут выраблялі чорнаглянцаваны посуд традыцыйнага асартыменту: гаршкі і слаі з накрыўкамі, збанкі, макатры, спарышы, міскі, талеркі, патэльні, кубкі і інш. Вырабы вызначаюцца буйнымі формамі з выразным чляненнем аб'ёмаў, у аснове якіх шар, цыліндр, конус. Формы посуду падкрэслены глянцавым дэкорам у выглядзе вертыкальных і косых палос, рамбічнай сеткі, завіткоў, елачкі і інш. Характар размяшчэння дэкору падпарадкоўваецца чляненню

форм вырабаў: тулава збанкоў і глякоў аздабляецца рамбічнай сеткай, гарлавіны — вертыкальнымі палоскамі ці суцэльным глянцаваннем і г. д. З 1984 промысел не існуе. Калекцыі П. к. 1960—80-х г. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Дзярж. мастацкім музеі БССР, Музеі старажытнабел. культуры ІМЭФ АН БССР і інш. *Я. М. Сахута.*

**ПРУ́СЫ,** група заходнябалцкіх плямён, якія ў 2-й пал. 1-га — першых стагоддзях 2-га тысячагоддзя н. э. насялялі ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж ніжнім цячэннем Віслы і Нёмана. У 13 ст. заваяваны Тэўтонскім ордэнам, большай часткай асіміляваны немцамі; частка П. перасялілася ў Літву, Польшчу. На землях Беларусі, згодна Валынскаму летапісу, упершыню паявіліся ў 1276—78 у раёнах Гродна, Слоніма і Ваўкавыска. Увайшлі ў склад бел. народнасці. Сляды існавання П. на бел. землях захаваліся ў тапанімічных назвах з коранем «прус» (Прусін, Прусіна, Прусінава, Прусавічы, Прусы, Прусікі, Прусаўшчына, Прусаўкі, Прусінічы) у Гарадоцкім, Лагойскім, Капыльскім, Касцюковіцкім, Крупскім, Крычаўскім, Пастаўскім, Салігорскім, Слонімскім, Старадарожскім, Талачынскім, Уздзенскім р-нах. *І. У. Чаквін.*

**ПРУТ,** п р э н т, даўняя мера даўжыні (7,5 *локця*, або 4,87 м) і плошчы (23,7 $м^2$) на Беларусі. Ужываўся пры пазямельных вымярэннях. Адзінка, у 10 разоў меншая за П., наз. прэнцік.

**ПРЫБАЛТЫ́ЙСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура плямён бронзавага веку, якія ў 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. насялялі Беларускае Панямонне і паўд.-ўсх. Прыбалтыку. Асноўны занятак насельніцтва — прымітыўнае земляробства і жывёлагадоўля. Паселішчы размяшчаліся на берагах вадаёмаў. Наземныя прамавугольныя ў плане жытлы мелі 2-схільную страху. Унутры жытлаў былі адкрытыя агнішчы, абкладзеныя камянямі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (нябожчыкаў хавалі ў глыбокіх ямах у скурчаным становішчы на баку), пахаванні адзіночныя і калектыўныя. Насельніцтва вырабляла амфары і гаршкі з акрэсленай шыйкай, арнаментаваныя гарызантальнымі шнуравымі адбіткамі і ялінкавымі ўзорамі з насечак або нарэзак. Сярод упрыгожанняў — падвескі з прасвідраваных зубоў жывёл, бурштынавыя трубчатыя пацеркі, разнастайныя падвескі, кружкі з адтулінамі, стылізаваныя фігуркі чалавека, аздобы ў выглядзе двухлязовых сякерак і інш. *М. М. Чарняўскі.*

**ПРЫВО́Й,** прыстасаванне для прывіўкі *раёў*. Называлі таксама абманка. Уяўляў сабой невялікую навошчаную або абсмаленую дошчачку чорнага колеру, якую гарызантальна прыбівалі да канца жэрдкі. Некалькі П. устанаўлівалі на двухметровых жэрдках вакол пасекі ў час раення пчол. Замест П. нярэдка развешвалі старыя шапкі або пацямнелыя соты. Часта П. націралі мелісай, пах якой прываблівае пчол.



**Пружанская кераміка.**

**ПРЫ́ГАРШЧЫ,** колькасць чаго-небудзь, якая ўмяшчаецца або можа ўмясціцца ў складзеныя «кошыкам» далоні (напр., П. жыта).

**ПРЫДА́НЫЯ,** вясельныя чыны з боку нявесты, якія праз некаторы час пасля ад'езду маладых або назаўтра ехалі праведаць маладую ў дом маладога і везлі ёй прыданае *(пасаг)* і снеданне. Называліся таксама прыдане, дзявочая бяседа. П. былі паважанымі гасцямі ў хаце маладога, асаблівай павагай карысталася старшая прыданка (часам гэты чын яна купляла ў бацькоў нявесты за барана, сувой палатна або за грошы). З яе пачыналася першая чарка, на ёй і канчалася частаванне. Пасля ад'езду маладых да маладога бацькі маладой склікалі блізкіх родзічаў — маладых няўдовых жанчын (прыданкі), маладых хлопцаў (закоснікі і *вячэрнікі*), старога (*кубельніка*), частавалі іх і адпраўлялі ўслед за маладымі. Часам П. бралі толькі маладых, але жанатых мужчын, або толькі родную маці, хросную і блізкую пажылую сваячку. У некаторых мясцовасцях П. ехалі разам з бацькамі маладой толькі пасля прыезду за імі маладога з салодкай гарэлкай і салодкімі пірагамі. Пасля частавання П., узяўшыся за рукі, выходзілі на двор, дзе іх чакалі запрэжаныя коні, упрыгожаныя стужкамі, калінай, кветкамі. Калі маладыя прыязджаў з салодкай гарэлкай і кашуляй маладой з доказамі яе цнатлівасці, П. ўбіраліся асабліва ярка, а за наміткі, шапкі, паясы затыкалі кветкі каліны. Калі вяселле адбывалася ў адной вёсцы, наперадзе поезда П. ехаў сват маладой на саламяным капі, якога госці маладога стараліся ўкрасці (Асіповіцкі і інш. р-ны). На першым возе П. везлі прапар (прывязаную да кія чырвоную хустку). Бацькі давалі П. выпіўку і закуску, якімі яны частаваліся ў дарозе. З імі маці пасылала дачцы смажаную курыцу, паўкаравая і сыр, якімі тая частавала сваякоў маладога. У некаторых мясцовасцях (Столінскі і інш. р-ны) у склад матчынага снедання ўваходзіў прадаўгаваты пірог, абвіты пляцёнкай з цеста ў выглядзе дзявочай касы (верч). Маладая рэзала верч на кавалкі, якія абмазвала мёдам і частавала імі ўсіх хатніх і гасцей. У варотах дома маладога П. перапыняла вялікая лялька, напханая саломай. Прабіўшыся праз гэту перашкоду, П. пад'язджалі да парога хаты, дзе іх вітаў «аркестр» з патэльнямі, гаршкамі, засланкай. Сярод іх была пераапранутая бяззубая старая, якую выдавалі за маладую. Госці патрабавалі, каб да іх выйшла сапраўдная маладая ў чырвоным фартуху (пацверджанне яе цнатлівасці), падымалі крык, шум і прыкідваліся, што хочуць ехаць назад. Толькі тады на парог выходзілі сапраўдныя маладыя, якія кланяліся гасцям і запрашалі іх у хату. Маці маладога прымала ад П. чорную курыцу (прыданачку), упрыгожаную разнаколернымі стужкамі, несла яе ў хату і пускала ў падпечак. Пачынаўся доўгі торг за скрыню з прыданым (госці не маглі сесці за сталы, пакуль не выкупяць скрыню). Потым адбываўся абмен пачастункамі паміж родамі. Частуючы сваякоў маладога (называлася прыданскай вячэрай), П. самі не елі; калі ж бацькі частавалі П. вячэрай, маладыя стаялі ў канцы стала і да ежы не дакраналіся. Часам маладых да прыезду П. не выводзілі з клеці, тады П. ішлі будзіць іх, захапіўшы з сабой рытуальную смажаную курыцу, сыр, якімі частава-

лі маладых. Пасля гэтага яны апраналі іх у новае адзенне, прыносілі для мыцця вядро вады (у яго клалі грошы і авёс), а таксама суправаджалі маладую, калі яна ішла аглядаць гаспадарку маладога і г. д. Знятую з маладой начную кашулю П. перавязвалі чырвонай стужкай, скакалі з ёй па лаўках, усяляк хвалілі маладую і развешвалі па хаце яе прыданае. Яны адорвалі сваякоў маладога, а маладому давалі трымаць пачынак, які маладая павінна была зматаць у клубок. У некаторых мясцовасцях маладыя ехаў да цешчы адразу пасля клеці, не дачакаўшыся пачастунку П. (іх частавала адна маладая). Абед павінен быў закончыцца да вяртання маладога, бо, згодна са звычаем, яму нельга было застаць П. у сябе дома або сустрэць іх па дарозе (каб пазбегнуць такой сустрэчы, ён збочваў і чакаў, пакуль П. праедуць). Перад ад'ездам П. імкнуліся нарабіць шкоды: паламаць лаўкі, пабіць посуд і г. д. Гаспадары не перашкаджалі ім, бо лічылася, што кожная такая шкода на шчасце. Для ад'язджаючых П. маці маладога даставала са скрыні з пасагам маладой бутэльку гарэлкі, якую ставілі туды ў час *пасада*, і частавала іх. На ад'язджаючых П. маладой не дазвалялі глядзець, каб яна не сумавала па бацькоўскім доме.



Страха з **прычолкам** хаты ў вёсцы Заазерная Маларыцкага раёна. Пачатак 20 ст.

Поезд П. вяртаўся ў дом маладой з гоманам, песнямі і бутэлькай салодкай гарэлкі, абвязанай яркім поясам або чырвонай стужкай і кветкамі каліны. Першай у хату ўваходзіла старшая прыданка і частавала гарэлкай бацькоў. Астатнія П. ўскоквалі на лавы і сталы, прыпяваючы: «Паламалі лаўкі, зарабілі слаўкі». Потым пачыналася вячэра (ці снеданне ў залежнасці ад пары дня), але ўжо без усякіх цырымоній. І хоць у абедзвюх хатах (маладога і маладой) гулялі аж да пятніцы, з ад'ездам П. уласна вяселле заканчвалася.

*Л. А. Малаш.*

**ПРЫ́ЗБА**, насып уздоўж ніжняй часткі зруба хаты для засцярогі яго ад вільгаці і для ўцяплення памяшкання. Найбольш простая П.— прысыпка зямлёй ці пяском двух ніжніх *вянцоў*. Больш дасканалая і пашыраная П. з калкоў, убітых у зямлю на адлегласці 35—40 см ад сцяны і пераплеценых лазой або бярозавымі пруткамі, ці з укапаных слупкоў, за якія закладвалі тонкае бярвенне, дошкі, гарбылі. Вядомы П. і з укапаных слупоў з пазамі, у якія закладвалі бярвенне, дылі. П. былі невысокімі, зрэдку іх насыпалі да акна. П. засыпалі зямлёй, часцей пяском, кастрыцай. У наш час будынкі ставяцца на фундаменце і П. не робяцца.

*С. А. Сергачоў.*

**ПРЫЗНА́КА**, асобая адзнака (метка) маладога, маладой (абазначала яе дзявоцкую годнасць) і галоўных вясельных чыноў. П. накладалі ў час спецыяльных абрадаў не толькі для адрознення чыноў, але і як сімвал яднання родаў маладых. Першапачаткова П. прышывалі да шапак вясельнікаў (на вяселлі мужчыны павінны былі прысутнічаць толькі з пакрытай галавой), пазней іх прышывалі да вопраткі на грудзях — жанатым і маладому — з правага боку, халастым — з левага. Абрад налажэння П. (букецік кветак або вяночка) маладому і членам яго дружыны адбываўся пераважна пасля звядзення маладых, радзей — напярэдадні вяселля. Калі нявесту пасля звядзення саджалі каля жаніха, дружко апошняга звяртаўся да прысутных з просьбай «прышыць П. князю маладому», здымаў з яго шапку і перадаваў яе старшай дружцы маладой. Тая здымала з галавы маладой вяночак і, папрасіўшы благаславення, прышывала яго да шапкі, якую надзяваў маладому дружко. У некаторых мясцовасцях да шапкі маладога прышывалі чырвоную стужку (найбольш старажытная П.), букецік зеляніны або стужку з каласком (Слонімскі пав.), пазней — букецік зеляніны з белай стужкай. Часам дружка за шапку патрабавала выкуп у дружка маладога. Пасля невялікага торгу яны прыходзілі да згоды, і дружкі нявесты атрымлівалі выкуп і частаванне. У Мінскім пав., калі маладыя прыязджаў па маладую, усе яго сваты стаялі на двары і не заходзілі ў хату да таго моманту, пакуль іх дружко не выкупляў для сваіх сваx вяночкаў, якія яны затыкалі за наміткі. У наш час па прыездзе маладога з дружынай да маладой яе дружкі выносяць на талерцы кветкі і насоўку маладой, прышываюць П. маладому і даюць яму выпіць настойкі (такія ж П. прышываюць яго дружкам, за што яны кладуць грошы; Маладзечанскі р-н). На Слонімшчыне ўсім мужчынам, якія ўваходзілі ў склад вясельнай дружыны, прышывалі да шапак пучок засушанага гарошку з чырвонай стужкай (жычкай). П. служылі таксама хусткі: адну хустку завязвалі маладому на шыю, а другую — пад каляровы пояс, які падвязвала яму нявеста або яе маці. Такія ж хусткі ў якасці П. затыкалі за паясы дружкі нявесты дружкам жаніха. Дружыну маладога адзначалі і спецыяльна вышытымі для гэтага ручнікамі: старшаму дружку ручнікі павязвалі накрыж праз плечы. У Маладзечанскім р-не і зараз хросная маці нявесты павязвае ручнікамі старшага дружка праз плячо, а астатніх — у поясе («значыць сватоў»). Розныя П. мела і нявеста: два вянкі (адзін большы, другі маленькі) на галаве, кветку (сучок, гірлянда) на грудзях і ручнік, прывязаны да рукі. У старшай дружкі ў якасці П. былі меншы, чым у маладой, вянок на галаве і кветка на грудзях, а ў астатніх дружак толькі кветкі на грудзях. У прыданых, калі нявеста захавала цнатлівасць, таксама былі П.: у жанчын сучкі каліны і чырвоныя стужкі на наміткак, а ў мужчын — разнаколерныя паясы з перавагай чырвонага колеру, за якімі былі заткнуты пучкі каліны. Была П. і ў старшай каравайніцы — кветка з чырвонай стужкай на наміткы.

*Л. А. Малаш.*




Мужчынскія **прычоскі**: 1 — шляхціца. 18 ст.; 2 — селяніна («пад гаршчок»). 19 ст.; 3 — селяніна (кароткая стрыжка). Пачатак 20 ст.

**ПРЫКЛА́ДЗІНЫ**, памінальны звычай па нядаўна памерлым сваяку. Называ-

ліся таксама прыклады. Адбываліся звычайна ў бліжэйшую пасля *пахавання* восень або перад *запускамі* вялікага посту і *сёмухай*. Калі не атрымлівалася ў першы год, то рабілі П. на 3-і ці 7-ы год (Піншчына). П. заключаліся ў тым, што сваякі, адбыўшы набажэнства ў царкве, ішлі на могілкі, дзе ўпарадкоўвалі магілу: ставілі крыж, камень ці абчасаную гранямі калоду (прыкладку), абкладвалі насып дзёрнам і г. д. Навёўшы парадак, рассцілалі па магіле абрус і паміналі. П. — своеасаблівае завяршэнне цыкла прыватных *памінак*. *У. А. Васілевіч.*

**ПРЫМА́ЦТВА,** шлюб, пры якім мужчыну прымалі ў дом і ў сям'ю жонкі і цесця, калі іх двор не меў свайго сына-наследніка. Пашыраная сацыяльна-эканам. з'ява дарэвалюцыйнага побыту бел. сялянства. У прымы звычайна ішлі беззямельныя або тыя сыны, якім не ставала часткі зямельнага надзелу. Прававое становішча зяця-прымака цалкам залежала ад галавы сям'і. Прымакова доля адлюстравана ў «прымацкіх» песнях, прыказках, прымаўках («Прымача доля сабача»). Прымак мог стаць сапраўдным гаспадаром, калі яго брала да сябе ўдава, у якой не было сына. Ва ўмовах сацыяліст. перабудовы вёскі эканамічна-прававая аснова П. знікла.

**ПРЫСА́ДЫ,** зялёныя насаджэнні вакол сядзіб, шляхоў, вуліц. У якасці ландшафтных элементаў уваходзяць у архітэктуру паркаў, скавераў, зон адпачынку, запаведных зон. Засцерагаюць жылыя масівы ад ветру, паляпшаюць якасць паветра, змяншаюць шумы, дапамагаюць больш актыўна фарміраваць раёны, у якіх жыллё і прамысловасць суседнічаюць і маюць адзіныя цэнтры абслугоўвання і агульныя месцы адпачынку. Пашыраны ў сельскай і гарадской архітэктуры Беларусі.

*У. С. Гуркоў.*




Дзявочыя **прычоскі** 19 — пачатку 20 ст.: 1 — у адну касу (Цэнтральная і Заходняя Беларусь); 2 — у дзве касы (Палессе); 3 — «у куклу» (Віцебская губерня).

Жаночыя **прычоскі** 19 — пачатку 20 ст.: 1 — круцень (Гомельскі павет); 2 — валік пад шапку (Слуцкі павет); 3 — чубочак з дзвюх кос (Мсціслаўскі павет).

**ПРЫЧА́Л,** 1) частка прыстані, забяспечаная прыстасаваннямі для прычальвання суднаў. 2) Слуп, моцны кол на беразе ракі, да якога прымацоўваюць судна, лодку, паром. П. для замацавання *плыта* каля берага называюць *аралам*. 3) Канат, якім прычальваюць судна, лодку, паром, плыт.

**ПРЫЧО́ЛАК,** элемент *страхі* каркаснай канструкцыі. Ствараўся за кошт таго, што франтон быў усечаны знізу схілам страхі. П. павялічваў вынас схілу страхі і лепш засцерагаў ад вільгаці тарцовую сцяну хаты. Быў пашыраны ў Зах. Палессі, у Брэсцкім, Камянецкім, Кобрынскім, Драгічынскім і інш. раёнах. Страха з П. з'яўлялася асн. формай страхі хат.

**ПРЫЧО́СКА,** парадак размяшчэння на галаве чалавека прыродных або штучных валасоў, які атрымліваецца прычэсваннем, стрыжкай, фігурным укладаннем, закручваннем, начэсваннем, часта ў спалучэнні з разнастайнымі дэкаратыўнымі ўпрыгожаннямі (стужкамі, кветкамі, карункамі, грабянямі, заколкамі і інш.). Да П. адносяць таксама галенне валасоў на галаве і твары. П. стварае адзінае цэлае з вонкавым выглядам чалавека, яго адзеннем і галаўным уборам. Яна адлюстроўвае мастацкі стыль эпохі і нясе ў сабе яго рысы. П. залежыць ад полу, узросту і нацыянальнасці чалавека, яе эвалюцыя цесна звязана з сацыяльна-палітычнымі працэсамі ў грамадстве.

Для нар. П. беларусаў характэрна агульнаслав. аснова. Яны не вызначаліся асаблівай разнастайнасцю, іх эвалюцыя ў значнай ступені абумоўлівалася практычнай мэтазгоднасцю. Патрыярхальны ўклад жыцця бел. сялянства садзейнічаў захаванню традыцыйных форм мужчынскай і жаночай П. амаль да пач. 20 ст. Старажытная мужчынская П. мела выгляд падрэзаных над вачыма валасоў і доўгіх пасмаў ззаду. Сяляне адпускалі вусы і бараду. Паступова сфарміравалася новае мужчынскае аблічча з невялікай або шырокай (ад скроні да скроні) барадой, паўкруглымі вусамі, якія звісалі ўніз, і нядоўгімі валасамі (прыкладна да сярэдзіны вуха), падрэзанымі ў кружок — «пад гаршчок». Валасы спераду разбіралі на прамы ці косы прабор, зачэсвалі ўгору або насілі кароткі чубок. У пач. 20 ст. маладыя мужчыны і юнакі зачэсвалі валасы ўгору, а на патыліцы іх коратка падстрыгалі; пакідалі невялікія вусы, бараду галілі. Стараж. дзявочай П. былі распушчаныя валасы (захавалася часткова ў вясельным абрадзе да канца 19 ст.). Традыцыйным было заплятанне валасоў у косы. Доўгія косы былі ідэалам дзявочай прыгожасці. Валасы расчэсвалі на прамы прабор, надпускалі крыху над вушамі і заплялі на патыліцы. Касу плялі з трох пасмаў; штодзённа ўплталі ў яе разнаколерныя акрайкі тканіны (плёткі, уплёткі, стужкі, пахісткі), на святы — фабрычныя стужкі, шаўковыя, часта пазументныя *(касніхі)*. Звычайна ў касу ўплталі адну стужку, у асобных рэгіёнах (Палессе) — ад 3 да 5. Часам касу пакідалі да паловы расплеценай (у нявесты гэта сведчыла пра яе сіроцтва). На большасці тэр. Беларусі насілі адну ці дзве касы: у сумежных з Расіяй паветах заплталі пераважна адну, на Пд Палес-

ся — дзве. Мянялася П. ў залежнасці ад святочнага ці будпага дня. Штодзённа часцей заплятаді дзве касы, якія абкручвалі вакол галавы ў выглядзе вянка; на святы ці калі ішлі ў царкву заплятаді адну ці дзве касы, якія свабодна звісалі ўздоўж спіны. З пач. 20 ст. ў рэгіёнах з найбольш развітым адыходніцтвам дзяўчаты на святах закручвалі валасы на патыліцы на гарадскі манер (у куклу, у куксу, гулу), замацоўваючы іх драўляным грэбенем ці шпількамі. Калі дзяўчына выходзіла замуж, змянялася і яе П. (гл. ў арт. *Завіванне*). Звычай забараняў замужняй жанчыне хадзіць з непакрытай галавой, таму яе валасы былі заўсёды ўбраны пад чапец або хустку. Часта П. выконвала ролю формаўтваральнай асновы складанага ўбору беларусак. Напр., тугі валік з накручаных на абручык (тканка, лямец, бічайка) валасоў укладвалі вакол галавы над вушамі пад чапец; венчыкам на цемені — пад шапку (Слуцкі пав. Мінскай губ.). У Мсціслаўскім пав. Магілёўскай губ. была вядома П. пад назвай чубочак — расчэсаныя на прамы прабор валасы скручвалі над скронямі ў два жгуты (разам з мяккай асновай, напр., жмутом кудзелі) і ўкладвалі над ілбом. Ва ўсх. паветах Магілёўскай губ. бытавала П. пад назвай у рогі, накоскі, яна стваралася таксама са жгутоў, якія завіваліся ў выглядзе двух ражкоў над скронямі. Існавала П. ў адзін ражок — круцень, кукіш; яго размяшчалі над ілбом (Мазырскі, Гомельскі паветы) або на макушцы (Гомельскі пав.). З канца 19 ст. жанчыны пачалі плясці косы, якія абкручвалі вакол галавы; у Цэнтр. і Зах. Беларусі косы сталі адзінай жаночай П.

Традыцыйная П. шляхціца ўяўляла сабой высока паголеную галаву з чубам на цемені, доўгія вусы, радзей бараду (у знак жалобы). З 17 ст. пад уплывам зах.-еўрап. моды ў асяроддзі магнатаў, а з 2-й пал. 18 ст. і паўсюдна мужчыны пачалі адпускаць доўгія валасы. Насіць вусы і бараду ў гэты час лічылася дрэнным густам. Паступова пашырыліся пышныя парыкі, якія прыпудрывалі і ўпрыгожвалі. Маладыя шляхцянкі насілі косы, пераплеценыя стужкамі і аздобленыя штучнымі кветкамі. З 18 ст. косы пачалі абкручваць вакол галавы і прышпільваць да іх разнастайныя ўпрыгожанні. Мода коратка стрыгчы валасы спачатку распаўсюдзілася на жаночую, а потым дзявочую П. Рэзка змяніўся вонкавы выгляд жанчын з прыходам моды на парыкі і шыньёны. Пашыты з палатна, напханы ватай або пакуллем шыньён насаджвалі на верх галавы і прыкрывалі яго гладка зачэсанымі і прыпудранымі валасамі. Упрыгожвалі П. ў залежнасці ад маёмаснага становішча асобы рознымі дробязямі ці каштоўнасцямі. З 18 ст. эвалюцыя П. прывілеяваных слаёў насельніцтва Беларусі была звязана з развіццём агульнаеўрапейскай моды.

У наш час традыцыйная П. захавалася ў асноўным у вёсцы; у гарадах прытрымліваюцца агульнаеўрапейскай моды. *Л. У. Дамнянкова.*

**ПРЭНТ**, даўняя мера даўжыні; тое, што і *прут*.

**ПУД**, адзінка вымярэння масы ў сістэме мер Расіі і Вялікага княства Літоўскага. Велічыня П. вагалася ад 40 да 50 *фунтаў* (15—18,7 кг). З канца 18 ст. ў Расіі, у т. л. на Беларусі, П. раўняўся 16,38 кг.



**Пухавіцкі строй.** Мужчына ў традыцыйным верхнім адзенні (балахон са скураным поясам). Пухавіцкі раён. 1905.

**ПУ́НЯ**, гаспадарчая пабудова для захоўвання сена, саломы; тое, што і *адрына*. Назва запазычана з літоўскай мовы — «пуне»; шырока бытуе на Беларусі, а таксама ў Смаленскай, Наўгародскай і інш. абласцях РСФСР. У стараж.-бел. мове зафіксавана ў пач. 16 ст.

**ПУХАВІЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў 1964 у в. Дукора Пухавіцкага р-на як школьны. Адкрыты ў 1968. З 1969 народны, з 1974 П. р. к. м. Мае 5 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 174 $м^2$), каля 4 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы гісторыі дасав. і сав. перыядаў. У экспазіцыі археалагічныя і нумізматычныя калекцыі, друкаваныя выданні, прылады працы і побыту сялян 19— пач. 20 ст. (кросны, сохі, плугі, граблі, косы, вілы, каўшы, ступы, дзежы, прасніцы, верацёны, начоўкі, цэбар, церніца, жорны, лапаты, бязмены, ліхтары, кавальскія і сталярныя інструменты, калаўроты, ручнікі, посцілкі, абрусы, коўдра і інш.), бел. нацыянальнае адзенне, дакументы пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, грамадзянскую і Вял. Айч. войны, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў краі. Зберагаюцца ўзоры прыкладнога мастацтва. *Л. А. Каратчэня.*

**ПУ́ХАВІЦКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Цэнтр. Беларусі. Бытаваў у 19— пач. 20 ст. на тэрыторыі паміж Слуцкам і Асіповічамі (абапал р. Пціч). Яму ўласцівы строгасць форм, тонкае ўмеркаванае аздабленне, разнастайнасць форм у жаночым і мужчынскім адзенні.

Жаночы летні гарнітур меў 2 варыянты: кашуля, спадніца, фартух; кашуля, спадніца, фартух, гарсэт. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі з адносна вузкім рукавом, адкладным ці стаячым каўнерам. Аздаблялі ўзорыстымі папярочнымі палосамі натыкання ці вышыўкі з акцэнтам на прыплечавой частцы. Чырвоны ці чырвона-чорны графічна выразны арнамент палос утвараўся з ромбаў, квадратаў, трохвугольнікаў, гладкіх і зубчатых ліній. Арнамент 2-полкавага (радзей 1-полкавага) фартуха, стылістычна і каларыстычна блізкі да аздаблення кашулі, размяшчаўся палосамі па прынцыпу згушчэння да нізу; па краях нашывалі мохрыкі ці карункі. Спадніцу (андарак) шылі з 4 (кроеных па аснове) або 2 (кроеных па ўтку) полак, натыканых у сакавітыя малінавыя, васільковыя, бурачковыя, фіялетавыя і стрыманыя чорныя, белыя гарызантальныя палосы і клеткі. Гарсэт меў 2 варыянты крою — у выглядзе кароткага ліфа з глыбокімі выразамі ў пройме і на грудзях і ў



**Пухавіцкі строй.** Касцюмы замужніх жанчын. Вёска Залужжа Старадарожскага раёна.

выглядзе доўгай безрукаўкі з баскайчатырохклінкай. Шылі гарсэт з шарсцянкі ці аксаміту васільковатa, чорнага колераў, аздаблялі нашыўкамі залацістага галуну, парчовай тасьмы, каляровай абляможкай. Касцюм завяршала намітка ці скіндачка. Мужчынскі гарнітур складаўся з кашулі, нагавіц, пояса і камізэлькі. Кашулю (тунікападобную ці з прамымі плечавымі ўставкамі) аздаблялі чырвоным геаметрычным арнаментам на плечавых устаўках, каўняры, каўнерцах, падоле; адкладны каўнер завязвалі тасёмкай або зашпільвалі меднай спражкай. Кашулю навыпуск падпяразвалі тканым ці скураным поясам, на якім часта насілі кайстру, ножык, шабету. Камізэльку з прываленага сукна ці карычнева-белай клятчастай даматканкі апраналі паверх кашулі. Традыцыйным галаўным уборам былі суконныя аздобленыя блакітнымі, чырвонымі, зялёнымі матузкамі магеркі, саламяныя капелюшы, аўчынныя футраванкі. *М. Ф. Раманюк.*

**ПЧАЛЯ́РСТВА**, адна са старажытных форм гаспадарчай дзейнасці чалавека, заснаваная на развядзенні і гадаванні пчол дзеля атрымання мёду, воску і іншых прадуктаў жыццядзейнасці пчалінай сям'і: прополісу, матачнага малачка, пяргі, пчалінага яду і пылку. У 3 ст. да н. э.—1 ст. н. э. пасля пераходу да земляробства і наступнага развіцця шматпрофільнай сельскай гаспадаркі П. з ляснога промыслу трансфарміравалася ў адну з галін жывёлагадоўлі (у наш час дапаможную). Развілося з т. зв. дзікага П., калі са знойдзенага пчалінага гнязда забіралі ўвесь мёд, а пчол папярэдне знішчалі агнём і дымам. Першай формай культурнага П. было *бортніцтва* — развядзенне пчол у *борцях*, прыстасаваных натуральных або адмыслова выдзеўбаных штучных дуплах у жывых дрэвах. Наступны этап — калоднае П. Пачало развівацца з паяўленнем у 16 ст. *калоды*, пераноснага неразборнага вулея. У канцы 18 ст. яно выцесніла заняпалае бортніцтва і амаль да канца 19 ст. было адзінай тэхналагічнай сістэмай утрымання пчол. У сярэдзіне 19 ст. калоду замяніў разборны вулей з рухомымі рамкамі (гл. *Рамовы вулей*), але канчатковы пераход да рамавага П. зацягнуўся амаль на стагоддзе і завяршыўся толькі ў 1930-я г.

Вялікую ролю ў развіцці П. адыграў дэкрэт «Аб ахове пчалярства», падпісаны У. І. Леніным 2.04.1919. Дэкрэт патрабаваў ад зямельных аддзелаў садзейнічаць стварэнню грамадскіх і індывідуальных *пасек*, забараніў абмяжоўваць колькасць вулляў, прадугледжваў выдзяленне пад пасекі і месцы сезоннага медазбору прыдатных дзялянак. У БССР у 1925 налічвалася 138,5 тыс. пчоласямей, 36 % якіх утрымлівалася ў рамавых вуллях. У 1926 дзейнічала 27 пчалярскіх таварыстваў, якія аб'ядноўвалі каля 1,1 тыс. пчаляроў і мелі 10,5 тыс. пчаліных сямей. Да 1927 у сістэме кааператыўнага П. знаходзілася 26,6 % пчалярскіх гаспадарак. Наладжвалася пчалярская прамысловасць, якая забяспечвала грамадскія і індывідуальныя пасекі пчалярскім інвентаром і прыладамі, штучнай вашчынай. У Мінску была створана механічная майстэрня па вырабу рамавых вулляў, у Гомелі — механізаваны восказавод. У перыяд калектывізацыі ў выніку абагульнення індывідуальных пчол узнікла новая форма арганізацыі П.— калгасная. Пасекі як правіла былі невялікія (20—25 пчоласямей) і прыносілі даволі значны прыбытак. Так, на пасецы калгаса «МОПР» Віцебскага р-на ад кожнай зімавалай сям'і ў 1938—40 бралі больш за 0,5 цэнтнера таварнага мёду. Да 1940 агульная колькасць пчоласямей у грамадскім сектары дасягнула 15 тыс. Істотную ролю П. адыгрывала ў павелічэнні ўраджайнасці; дадатковы ўраджай ад перакрыжаванага апылення складаў у сярэднім 25—30 % і перавышаў кошт мёду ў 15—20 разоў. Цяжкія страты панесла П. за гады акупацыі Беларусі нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Усе пасекі былі знішчаны, імшанікі і мурні спалены, майстэрні разрабаваны. Захавалася менш 2 % даваеннай колькасці пчол (2270 пчоласямей). У выніку дбайнай працы пчаляроў у канцы 1947 у рэспубліцы налічвалася ўжо 80 тыс. пчаліных сямей. У параўнаўча кароткі тэрмін Беларусь па агульнай колькасці пчоласямей выйшла на трэцяе месца ў краіне. Паводле даных 1987, у рэспубліцы налічваецца звыш 300 тыс. пчоласямей, у т. л. 105 тыс. на 12 тыс. грамадскіх і дзяржаўных пасеках. Асноўны кірунак пчалярскай гаспадаркі рэспублікі — апыляльна-мядовы, але побач з ім вядзецца і племянная работа. У Брэсцкім пчолагадавальніку разводзяць мясцовых пчол, у Баранавіцкім — краінак, у Гродзенскім — карпацкіх. Навукова-даследчая праца па П. вядзецца ў Бел. навукова-даследчым ін-це бульбаводства і плодаагародніцтва, Бел. навукова-даследчым ін-це эксперыментальнай ветэрынарыі, Бел. с.-г. акадэміі і на Гомельскай абласной с.-г. доследнай станцыі. *С. Ф. Цярохін.*

**ПЧАЛЯРЫ́**, людзі, якія прафесійна або па-аматарску займаюцца развядзеннем пчол дзеля атрымання мёду, воску і інш. прадуктаў *пчалярства*. Называлі таксама пчалаўнікі, пчалаводы, пасечнікі, зямцы. У пач. 16 ст. з пашырэннем калодных вулляў і прысядзібных пасек многія сяляне пачалі займацца пчалярствам як дапаможным заняткам. Праца П. патрабавала разнастайных ведаў, практычных навыкаў, назіральнасці і інтуіцыі. Хадзіць ля пчол вучыліся з маленства, спасцігаючы сакрэты майстэрства ад бацькоў і дзядоў. Найбольш важныя таямніцы — розныя прыкметы, замовы, прымхі — П. перадавалі сынам і ўнукам перад смерцю. Паводле сведчання І. А. Сербава на Усх. Палессі такая традыцыя бытавала да пач. 20 ст. Многія эмпірычна здабытыя рацыянальныя прыёмы догляду пчол выконваліся без разумення біялагічных працэсаў пчалінай сям'і. Шмат якія з'явы ў жыцці пчол да канца не даследаваны і ў наш час, што адкрывае П. шырокую магчымасць для цікавага эксперыментавання і выяўлення творчага патэнцыялу, вынаходлівасці і кемлівасці.

*С. Ф. Цярохін.*

**ПШЧО́ЛКА** Аляксандр Раманавіч (1869, в. Чарсцвяты Лепельскага пав.— 1943), беларускі пісьменнік, этнограф, фалькларыст. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю, юрыдычны ф-т Юр'еўскага (Тартускага) ун-та (1907). Працаваў настаўнікам, адвакатам у Віленскай, Курляндскай і Эстляндскай губ. У 1-ю сусветную вайну пераехаў на Віцебшчыну (Гарадок, Полацк). З 1928 жыў у г. п. Старая Тарапа Калінінскай вобл. Друкаваўся з 1898 у «Витебских губернских ведомостях», пазней у газ. «Сельский вестник», «Минское слово», «Белорусская жизнь», у час. «Крестьянин» і інш. Пісаў на бел. і рус. мовах. У літ. дзейнасці прытрымліваўся буржуазна-ліберальнага кірунку. Выдаў больш за 10 кніг апавяданняў і нарысаў, дзе паказаў неўладкаванасць і забітасць тагачаснай бел. вёскі. Шмат падарожнічаў па Лепельшчыне. У этнагр. нарысах апісваў жыццё, побыт, звычаі і абрады сялян гэтага краю. Дасканалае веданне мясцовай гаворкі дазваляла яму дакладна перадаваць простую мову герояў, творы вуснай паэзіі. Нарыс «Дзяды» (1898) прысвечаны абраду памінання памерлых родзічаў. У «Мікітавых хаўтурах» (1901) апісаў пахаванне селяніна, пры вёў тэксты галашэнняў над нябожчыкам. П. не ўдалося разглядзець гуманістычную сутнасць гэтага абраду, у выніку спрошчаны, павярхоўны падыход прывёў да скажонага паказу рэчаіснасці. Артыкул «Талака» (1903) аб'ектыўна раскрыў своеасаблівую форму сялянскай узаемадапамогі. У нарысе «Зажынкі і абжынкі» (1903) паказаў розныя этапы земляробчага абраду, выкарыстаў шматлікія тэксты бел. жніўных песень, спевы сялян жабракоў; для яго характэрна добрае адчуванне нар. культуры. У цыкле нарысаў «Пісьмы з вёскі» (1907) адлюстравалася непаслядоўнасць і супярэчлівасць аўтарскай пазіцыі ў адносінах да народа, што выявілася ў падкрэсліванні цёмных і адмоўных бакоў сялянскага побыту і характараў, абстрактным маралізатарстве. Каштоўнасць нарысаў у змешчаных там павер'ях і легендах. Нарыс «Беларускія святы» (1912) уяўляе спробу апісання нар. календара сялян Лепельшчыны. У Полацку стварыў хор, які выконваў бел. нар. песні, у Вільні арганізаваў вечар бел. нар. музыкі. Пад рэдакцыяй П. выдадзена паэма «Тарас на Парнасе» (3 выд., 1910).

*Тв.*: Очерки из жизни белорусской деревни. Витебск, 1899; Пилипово веселье: (Белорусский очерк). Витебск, 1901; Бело-

русские рассказы. Витебск, 1901; Очерки и рассказы из жизни белорусской деревни. 2 изд. Вильна, 1906; Очерки и рассказы из жизни Белоруссии. Сб. 2. 2 изд. Витебск, 1910. *У. А. Васілевіч.*

**ПЫ́ПІН** Аляксандр Мікалаевіч [25.3(6.4).1833, Саратаў — 26.11(9.12).1904], рускі літаратуразнавец, этнограф, фалькларыст. Акад. Пецярбургскай АН (1898, чл.-кар. 1891). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1853). Друкаваўся з 1852. Супрацоўнічаў у час. «Отечественные записки», «Современник» (1863—66), «Вестник Европы» (з 1867). У маладосці быў пад ідэйным уплывам М. Г. Чарнышэўскага (свайго стрыечнага брата), потым прыхільнік памяркоўна-ліберальных, асветніцкіх поглядаў. У «Гісторыі рускай этнаграфіі» (т. 1—4, 1890—92), у 7 раздзелах 4-га т. упершыню характарызаваў і абагульніў важнейшыя працы па бел. этнаграфіі і фальклору. Агляд гісторыі бел. этнаграфіі зрабіў у цеснай сувязі з гіст. і культурным развіццём Беларусі; этнагр. навуку і л-ру разглядаў як форму, выражэння самасвядомасці народа, сцвярджаў нацыянальную самабытнасць бел. народа, аналізаваў дзейнасць даследчыкаў бел. нар. творчасці, этнографаў П. В. Бяброўскага, І. І. Насовіча, Ю. Ф. Крачкоўскага, Е. Р. Раманава, П. В. Шэйна і інш. Прадстаўнік культурна-гіст. школы ў літаратуразнаўстве. Сярод яго прац «Гісторыя славянскіх літаратур» (з У. Д. Спасовічам, т. 1—2, 2 выд., 1879—81), «Гісторыя рускай літаратуры» (т. 1—4, 4 выд., 1911—13) і інш. *Г. А. Пятроўская.*

**ПЯ́ДЗЯ**, 1) даўняя мера даўжыні, роўная адлегласці паміж канцамі расцягнутых вялікага і ўказальнага пальцаў. Са значэннем меры слова «пядь» ужывалася ўжо ў Ізборніку Святаслава 1073. 2) Ужываецца таксама ў значэнні ўчастак зямлі, прасторы.

**ПЯ́ЛЬЦЫ**, прыстасаванне для вышывання ў выглядзе рамы або круга, на якія нацягваецца і замацоўваецца тканіна; тое, што і *бёльцы*.

**ПЯНЬКА́**, канапляное валакно. Для атрымання яго каноплі рвалі ў 2 этапы: у канцы ліпеня мужчынскія сцёблы (плоскунь, пласканне), у жніўні, як паспее семя,— жаночыя (мацеркі, майткі). Валакно з плоскуні было больш мяккім, яго выкарыстоўвалі для вырабу тканін, з П. вілі вяроўкі, аборы. Працэс апрацоўкі сцёблаў канапель амаль супадае з працэсам апрацоўкі саломкі *лёну*. Адрозненне толькі ў тым, што трасту канапель абавязкова мачылі, а потым рассцілалі і перад мяццем (для змякчэння) білі пранікам.

**ПЯРУ́Н**, вобраз старажытнай міфалогіі ўсходніх і інш. славянскіх народаў, вярхоўнае язычніцкае бажаство ўсходніх славян, бог грому і маланкі. Падобны да стараж.-грэчаскага бога Зеўса і стараж.-рымскага Юпітэра. У стараж. славян увасабляў навальнічную хмару, якая дае дождж і спрыяе ўрадлівасці. У «Аповесці мінулых гадоў» сярод багоў П. названы першым. У гонар П. будавалі свяцілішчы-капішчы (рэшткі некаторых знойдзены на Беларусі). Ідалы П. былі пастаўлены ў Кіеве (побач з *Дажбогам*) і Ноўгарадзе. Пасля ўвядзення хрысціянства функцыі і рысы П. нададзены *Ілы*.

Паводле стараж. бел. павер'яў П. трымаў у руках велізарныя жорны, удараў каменем аб камень і выклікаў гром і маланку, асколкі жорнаў ляцелі на зямлю і паражалі, як стрэлы. На ўяўленні пра П. зрабіла ўплыў хрысціянская рэлігія: лічылі, што П. накіроўвае свае ўдары на чорта, які нібыта хаваўся ў час навальніцы пад дрэвамі. Рэлігійнае значэнне вобраз П. страціў у канцы 19 — пач. 20 ст. і знайшоў адлюстраванне ў бел. фальклоры: стараж. сякеры называліся перуновымі стрэламі, гром — П.; з яго вобразам звязаны бел. прымаўкі і праклёны. *М. Ф. Піліпенка.*

**ПЯРЭ́ВАРАЦЕНЬ**, фантастычны персанаж нар. павер'яў і казак; чалавек,ператвораны ці здольны сам дзівосным чынам ператварыцца ў звера, расліну, камень. Узнік на аснове *татэмізму*. Найчасцей П.— гэта чалавек, ператвораны чараўніком у воўка, ці сам чараўнік у воўчай выяве (гл. ў арт. *Ваўкалак*). Пра П. расказваў яшчэ стараж.-грэчаскі вучоны Герадот у сваіх сказаннях пра Скіфію. На Беларусі і ў наш час бытуюць творы пра П. ў розных жанрах фальклору, пра ператварэнні чалавека ў мядзведзя, лася, казу, птушак, дрэвы, кветкі, камяні. Асабліва папулярны нар. баладныя песні пра дачку, якая ператварылася ў зязюлю і паляцела адведаць маці; ці ператварылася ў таполю; пра брата і сястру, якія ператварыліся ў расліны браткі, Іван ды Мар'я. *А. Ю. Лозка.*

**ПЯРЭ́ЗВЫ**, 1) звычай запрашэння і частавання ўдзельнікаў вяселля ў хатах сваякоў маладых і іншых вясельнікаў у час вяселля і ў хатах бацькоў пасля яго. Называлі таксама перазоў, гасціна, падвясёлкі, перазовіны, пераводзіны. Наладжваліся з мэтай аказання матэрыяльнай дапамогі бацькам маладых у правядзенні вяселля. Пасля застолля ў хаце маладой хто-небудзь з яе сваякоў (дзядзька-дружко, хросная маці або старшая дружка) запрашаў (перазываў) усю бяседу разам з музыкамі да сябе ў хату. У гэтым выпадку ў бацькоў маладых бралі толькі гарэлку, а частаванне выстаўлялі сваё. П. суправаджаліся наступным рытуалам: узяўшы з вясельнага стала лустачку хлеба (пірог), старшы дружка пераводзіў бяседу да сябе ў хату. Пачаставаўшыся, з той жа лустачкай хлеба бяседа пераходзіла да другога, трэцяга і г. д. і нарэшце вярталася ў хату яе бацькі (з той жа лустачкай хлеба). Такі ж рытуал адбываўся і ў хаце маладога і яго блізкіх сваякоў. Гасціванне ў сваякоў маладой называлася сваскія або дзявоцкія П., а ў сваякоў маладога — прыданскія або хлапецкія П. У канцы вяселля маладыя запрашаў на апошнюю вясельную бяседу найбольш паважаных і сталых родзічаў: хросных бацькоў, дзядзькоў, цётак і інш., якія прыносілі з сабой пірагі, мачаныя ў мёд з цёртым макам, аладкі ў смятане, смажаніну. Маці дзяліла ўсё гэта паміж сваімі роднымі і частавала іх. У першую суботу пасля вяселля адбывалася т. зв. гасціна (пірагі) — бацькі маладога і іх бліжэйшыя родзічы разам з маладым і маладой прыязджалі (з пірагамі) да яе бацькоў. У некаторых мясцовасцях бацька маладой праз тыдзень са сваім пірагом прыязджаў да бацькоў маладога, мяняў свой пірог на іхні і забіраў маладых да сябе дадому, дзе яны і начавалі (да гэтага дня маладая не мела права бываць у сваіх бацькоў нават у выпадку патрэбы). На наступны дзень раніцой прыязджалі родзічы маладога, бацькі маладой склікалі сваіх сваякоў, знаёмых і разам з імі частавалі гасцей. За сталом старэйшыя вялі размовы пра ўзаемаадносіны бацькоў і дзяцей, пра ўладкаванне дабрабыту маладых, спявалі песні пра жаночую долю ў чужым доме. Пасля застолля маладыя вярталіся дадому разам з гасцямі. Звычай П. захаваўся і да нашага часу, праз тыдзень пасля вяселля бацькі маладога запрашаюць да сябе бацькоў маладой паглядзець, як жыве іх дачка ў доме мужа. 2) Вясельнікі, якіх запрашалі і частавалі ў хатах бацькоў, сваякоў маладых у час вяселля і пасля яго (называліся таксама перазвяне, перазыўшчыкі). *Л. А. Малаш.*

**ПЯТКЕ́ВІЧ** (Pietkiewicz) Чэслаў (20.7.1856, в. Бабчын Хойніцкага р-на — 10.10.1936), беларускі і польскі этнограф, фалькларыст. Атрымаў дамашнюю адукацыю. Працаваў на Палессі, Кіеўшчыне, Смаленшчыне, у Лодзі. З 1923 у Варшаве, супрацоўнічаў у аддзеле этналогіі Ін-та антрапалагічных і этналагічных навук Варшаўскага навуковага т-ва. З 1928 — у этнагр. камісіі Акадэміі ведаў (Кракаў). Даследаваў матэрыяльную і духоўную культуру насельніцтва Палесся, асабліва беларусаў, іх заняткі, павер'і. Друкаваўся з 1925. У час. «Ziemia» («Зямля») змясціў артыкулы і нарысы: «Дарогі на Рэчыцкім Палессі ў другой палове XIX стагоддзя» (1926), «Хойнікі» і «Палессе ў канцы XIX стагоддзя: Пажары сасновых лясоў і балот» (1927), «Душа і смерць у вераваннях беларусаў» (1930), «Вялікдзень на Беларусі» (1932); у час. «Pamiętnik Warszawski» («Варшаўскі дзённік») — «Мёртвыя ў вераваннях беларусаў» (1931); у час. «Wiadomości Ludoznawcze» («Этнаграфічныя звесткі») «Земляробчыя боствы ў вераваннях беларусаў» (1933). Першая грунтоўная манаграфія П.— «Рэчыцкае Палессе: Этнаграфічныя матэрыялы. Ч. 1. Матэрыяльная культура» (Кракаў, 1928); яе працяг — «Духоўная культура Рэчыцкага Палесся: Этнаграфічныя матэрыялы» (Варшава, 1938). Рукапіс 3-й часткі збораў П. пра Рэчыцкае Палессе,

у якой асвятляліся пытанні грамадскай культуры, страчаны ў час 2-й сусветнай вайны. Падрыхтаваў да друку і дапоўніў уласнымі матэрыяламі і каментарыямі 4 т. «Люду беларускага» М. Федароўскага (Варшава, 1935). Для прац П. характэрна вычарпальная інфарматыўнасць у галіне нар. побыту і культуры Палесся, дасканалае адчуванне нар. мовы. Свае публікацыі ілюстраваў уласнымі малюнкамі. Скіраваў на вывучэнне Палесся К. Машынскага, дапамагаў у выданні яго кнігі «Усходняе Палессе: Этнаграфічныя матэрыялы...» (1928), узбагаціў яе сваімі этнагр. і фальклорнымі матэрыяламі. *У. А. Васілевіч.*

**ПЯТЛЯ́**, традыцыйная рыбалоўная прылада, якой лавілі невялікіх шчупакоў, што ў летнюю спякоту стаяць бліз паверхні вады; тое, што і *сіло.*

**ПЯТРО́**, старажытнае земляробчае свята ў беларусаў і інш. славянскіх народаў, своеасаблівы працяг *купалля.* Называлася таксама Пятра, Пятрок. Адзначалася 29 чэрвеня с. ст. У аснове свята — культ зеляніны; некалі яно мела аграрна-магічную накіраванасць у спалучэнні са шлюбнай. Назва язычніцкага свята, да якога царква прымеркавала свята апосталаў Пятра і Паўла, не захавалася. У бел. фальклоры П.— апякун хлеба і хлебаробаў. П. папярэднічаў пост — пятроўка («Пятроўка — самая галадоўка»), які дзе-нідзе называлі «бабскім». Калі спрыяла надвор'е, на пятроўку пачыналі сенакос («Хто ў пятроўку сена не косіць, той зімою ў сабак просіць»). У старажытнасці на П. характэрна была варажба, аграрна-магічныя матывы якой спалучаліся з матывамі кахання і шлюбу. З гэтага свята звычайна пачыналіся т. зв. пятроўскія *карагоды* (працягваліся да *спаса*). У час святкавання спявалі арганічна звязаныя з купальскімі пятроўскія песні, якія мелі некалі аграрна-магічнае прызначэнне (у наш час асноўныя ў іх матывы кахання і шлюбу); адбывалася *кумаванне* дзяўчат з хлопцамі (паводле Е. Р. Раманава, у некаторых мясцовасцях кумаванне дзяўчат з хлопцамі было на *сёмуху,* а на П.— паміж сабой), якое было пашырана ў славян і мела ў старажытнасці абрадавы характар (абмяняўшыся пярсцёнкамі або чым-небудзь з вопраткі ці проста пацалаваўшыся праз вянок з завітых дрэўцаў, яны пэўны час лічыліся *кумамі*). Потым пачыналіся гульні, частаванне. Пасля П. лета хілілася на восень («Прыйшоў Пятрок — апаў лісток», «Пятрок — асенні святок»). *А. В. Цітавец.*

**ПЯТРО́ЎКА**, пост у праваслаўных перад святам апосталаў Пятра і Паўла, якое святкуецца 29 чэрв. с. ст.

**ПЯЧУ́РКА**, 1) ніша ў сцяне печы. 2) Невялікая печка. 3) Ніша збоку прыпечка, куды згрэбаюць вугалле, попел.

**ПЯЧЫ́СТЫ**, усякае смажанае мяса. Называлі таксама пячыстае, пячыста. Вядома месцамі на Віцебшчыне, Магілёўшчыне.



**РАБІ́НАВАЯ НОЧ**, навальнічная ноч, якая абавязкова чакаецца ў канцы лета (у спасаўку, паміж Ільёй ці Барысам і вялікай прачыстай або паміж вялікай і малой прачыстымі). Называлася таксама арабінавая ноч, вераб'іная ноч. На працягу ўсёй Р. н. неба сатрасаюць грымоты, бліскаюць маланкі, лье праліўны дождж, дзьме страшэнны вецер, узнікаюць віхоры. Згодна з нар. павер'ямі ў гэтую ноч з пекла на свет выходзілі ўсе злыя сілы, якія нібыта спраўлялі сваё галоўнае гадавое свята. Паводле адных меркаванняў, у Р. н. розная нечысць страшыла хрышчоных людзей, паводле другіх — наадварот, усе стыхіі прыроды яднаіліся, каб знішчыць нячыстую сілу, што распладзілася пасля купалля за лета і бясконца шкодзіла людзям. Кожны забіты ці пакалечаны ў гэтую ноч перуном лічыўся нядобрым чараўніком. Каб маланка не спаліла хату ці іншыя збудаванні, у Р. н. вывешвалі непамыты велікодны абрус, у некаторых мясцінах пад страху прывязвалі чырвоныя ніткі. На Палессі верылі, што ад моцнай буры ў гэтую ноч рабчыкі раздяталіся па ўсім лесе і да самага такавання жылі па аднаму. Лічылася, што навальніца ў Р. н. нібыта патрэбна для паспявання ягад на рабіне, калі ж ягады не спелі — чакалі благога заканчэння лета і халоднай восені. *У. А. Васілевіч.*

**РАБІНО́ВІЧ** Міхаіл Рыгоравіч (н. 22.5.1916, Свярдлоўск), савецкі этнограф, археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1963). Скончыў Маскоўскі ун-т (1941). Вывучае этнічную гісторыю і стараж. культуру ўсх.-слав. народаў, гісторыю, археалогію і этнаграфію рус. горада, праблемы развіцця стараж.-рус. народнасці, распрацоўвае рэканструкцыі яе традыцыйна-бытавой культуры, гіст.-культурныя сувязі ўсх.-слав. і інш. еўрапейскіх народаў. Праводзіў археалагічныя даследаванні тэр. Полацкай зямлі. Аўтар прац «Нарысы этнаграфіі рускага феадальнага горада: Гараджане, іх грамадскі і дамашні побыт» (1978), раздзелаў у кн. «Этнаграфія ўсходніх славян» (1987), артыкула «Работа над рэгіянальным гісторыка-этнаграфічным атласам Украіны, Беларусі і Малдавіі» (з К. Гуслістым, 1969) і інш. Удзельнічаў у распрацоўцы тэарэтычных аспоў і прынцыпаў картаграфавання этнагр. рэалій, што былі выкарыстаны ў работах над гісторыка-этнагр. атласамі і ў спецыяльных даследаваннях, у т. л. ў манаграфіях па бел. нар. жыллю, адзенню, с.-г. прыладах працы. *В. С. Цітоў.*

**РАГА́ТКА**, звычай перагароджваць дарогу *вясельнаму поезду* з мэтай атрымаць выкуп за маладую. Рэгіянальныя назвы брама, пярэйма, застава, заяц, тычка і інш. Рабіць Р. мог кожны на дарозе, па якой малады вёз маладую да вянца, ад вянца і ў сваю хату. У якасці выкупу дзеці атрымлівалі цукеркі, паясы, каравайныя шышачкі, моладзь — пірагі і грошы, пажылыя — гарэлку, пірагі, закуску і інш. Дарогу перагароджвалі шнурам, вяроўкай, жэрдкай ці рабілі браму з укапаных абапал дарогі бярозак са звязанымі верхавінамі. Ставілі накрыты белым абрусам стол, клалі на яго хлеб-соль, ставілі кветкі, поўны кубак вады або побач са сталом поўнае вядро вады, што сімвалізавала поўнае шчасце будучай сям'і. Пазней пачалі ставіць талерку з дзвюма поўнымі чаркамі віна. Вясельны поезд павінен быў спыніцца каля Р., маладая са старшым дружкам — падысці да стала, выпіць вады ці віна, забраць хлеб-соль і даць «вартавым» выкуп. «Торг» пра памеры выкупу вёў дружка (часам сват). У народзе лічылі: чым больш Р. на шляху вяселля, тым лепш будуць жыць маладыя. Дрэнным прыкметай было, калі іх ніхто не спыняў. У Р. выразна выяўляліся элементы стараж. звычаю куплі-продажу нявесты. Звычай ставіць Р. захоўваецца і ў наш час. *Л. А. Малаш.*

**РАГО́ЖНЫ ПРО́МЫСЕЛ**, нарыхтоўка з ліпавай кары лубу, мачалы, лыка і выраб з іх разнастайных гаспадарчых рэчаў (рагож, цыновак, лубянак, карабаў, вярэнек, лапцей, рашотаў, вяровак, пэндзаляў і г. д.). На тэрыторыі Беларусі Р. п. вядомы з жалезнага веку, пра што сведчаць археалаг. знаходкі рагожнай керамікі (адбіткі рагож на гліняных пасудзінах). Пра выкарыстанне лубу і рагож усх. славянамі паведамляюць летапісы 11 ст. і актавыя дакументы сярэднявечча. У 16—18 ст. у гарадах Беларусі сярод рамеснікаў, якія апрацоўвалі валакністую сыравіну, былі і рагожнікі. У канцы 18 ст. ў Чэрыкаўскім, Беліцкім і інш. паветах сяляне нарыхтоўвалі луб, мачалу, ткалі рагожы і прадавалі іх на кірмашах. Рагожы і цыноўкі былі і прадметам экспарту.

Сыравіна для Р. п.— ліпавая кара. Яе здзіралі са спілаванага дрэва ў сокавую пару (маі — чэрвені). З тоўстых ствалоў з дапамогай сякеры і завостранай палкі здзіралі луб, а з маладых параткаў і галінак — лыка. Ствол дзялілі на некалькі частак: знізу ад камля адмервалі прыкладна 2 м для сухога (крышачнага), вышэй (3—4 м) для мачальнага лубу. На Палессі, паводле сведчання Ч. Пяткевіча, луб здзіралі не з паваленых дрэў, а на карані. Дзеля гэтага лазілі на дрэва з дапамогай

*лязіва*. Для нарыхтоўкі таварнага сухога лубу з яго саскрабалі сякерай верхні слой, потым распарвалі над вогнішчам, каб выпрастаць, і па некалькі штук клалі пад гнёт на 3—4 тыдні. Пасля прасушкі луб быў гатовы для гаспадарчага выкарыстання і на продаж. З сухога лубу выраблялі корабы, абечкі для рашотаў, сявенькі, люлькі, палукашы для вазоў, калымажак; ім накрывалі буданы, груз на рачных суднах, для пруткасці яго ўстаўлялі ў падбіўкі і г. д.

Луб для мачалы адразу пасля нарыхтоўкі скручвалі ў трубку (некалькі складзеных адна ў другую трубак называліся скалай). Скалы замочвалі ў рэчках ці сажалках, дзе яны ляжалі пад гнётам да замаразкаў. У кастрычніку іх выцягвалі з вады і здзіралі з іх мачалу — валакністую частку. Яе прасушвалі і дзялілі на вузкія палоскі (стужкі), з якіх ткалі рагожы, цыноўкі, сетку для рашотаў, вілі вяроўкі, канаты для рачных суднаў, плялі рыбалоўныя сеткі, вярэнькі, сянныя кашалі для кармлення коней у дарозе, вядомы нават мачальныя ветразі.

Для ткання рагож выкарыстоўвалі 2 тыпы ручных драўляных станкоў (кроснаў): гарызантальны і вертыкальны. Яны адрозніваліся ад кроснаў для льнянога палатна адсутнасцю нітоў і навояў, а таксама спецыфічнай будовай бёрда і чаўнака. Бёрда служыла для ўтварэння зева і прыбівання нітак утку. Яно складалася з дубовых пласцінак з круглымі дзірачкамі (вочкамі). Мачальныя стужкі зацягвалі пачаргова ў шчыліны паміж пласцінкамі і ў вочкі бёрда. Для прыбівання ўтку, акрамя бёрда, на Міншчыне карысталіся білам (трапалам) — дошчачкай прамавугольнай ці веслападобнай формы. Чаўнок бытаваў некалькіх відаў: ігліца (на Магілёўшчыне) — пласцінка накшталт чаўнака для пляцення рыбалоўных сетак, на завостраным яе канцы з адтулінай закручвалася уточная стужка; іголка (на Міншчыне) — плоская палачка, завостраная з абодвух канцоў, з адтулінамі на іх для працягвання ўточнай мачальнай стужкі. Спывалі рагожныя кулі спец. крывой іголкай. Разнавіднасць рагожы — цыноўка, для вырабу якой стужкі асновы скручвалі (сукалі) на спец. шпулю (круцёлку).

Мачальнікі-саматужнікі працавалі звычайна сем'ямі. Рагожы і цыноўкі ткалі пераважна мужчыны. За дзень сям'я магла выткаць 5—8 цыновак або 10—12 рагож. Працаёмкі Р. п. прыносіў сялянам невялікі прыбытак. У 19 ст. ён быў найбольш пашыраны ў Рагачоўскім, Чэрыкаўскім, Быхаўскім, Гомельскім, Горацкім, Чавускім, Магілёўскім, Клімавіцкім, Аршанскім, Сенненскім, Бабруйскім, Барысаўскім, Ігуменскім, Кобрынскім паветах, дзе ў лясах былі зараснікі ліпавых дрэў. Майстэрствам у Р. п. вызначаліся сяляне Кошалеўскай воласці Рагачоўскага пав. На сельскагаспадарчай выстаўцы ў Магілёўскай губ. ў 1850 вытканыя імі цыноўкі за якасць і прыгажосць адзначаны грашовай узнагародай. На Тураўшчыне і Піншчыне ў якасці сыравіны для рагож і цыновак выкарыстоўвалі балотную траву — рагоз. Цыноўка з рагозу зберагаецца ў Бел. дзярж. музеі сацыяліст. пераўтварэння Палесся ў Пінску. З 2-й пал. 19 ст. з прычыны драпежніцкага знішчэння ліпавых дзялянак нарыхтоўка мачалы пачала скарачацца і ў канцы стагоддзя прыйшла ў заняпад, хоць рагожы і цыноўкі ткалі нават у 1920—30-я г. Выраб жа лубяных рашотаў, корабаў, сявенек практыкаваўся да 40-х г. У наш час Р. п. на Беларусі не існуе. *Н. І. Буракоўская.*

**РАГУЛЬКА,** прыстасаванне для сушкі посуду. Рабілі Р. з суцэльнага ствала невял. хвоі, з якой здымалі кару, але пакідалі крыху пакарочаныя сукі. На сукі вешалі сушыцца вымытыя жбаны, глякі, вёдры і г. д. Р. ўкопвалі ў зямлю непадалёк ад уваходу ў хату. Пашырана на Палессі, Падняпроўі. У наш час Р. часам робяць з укапанай у зямлю жэрдкі, да якой накшталт сукоў прыбіваюць кароткія калкі. *С. А. Сергачоў.*



Рагулька.

**РА́ДАЎНІЦА,** язычніцкае веснавое свята ўсходніх славян, звязанае з *культам продкаў*, дзень памінання памерлых. Называлі таксама радуніца, радуніцкія дзяды. Памінальны абрад адбываўся непасрэдна на могілках у аўторак на «правады́» (паслявелікодны тыдзень). Паходжанне слова «Р.» выводзяць ад розных слоў: ад ведыйскага radanh (ахвярадаўства), літоўскага rauda (галашэнне), ад агульнаслав. слоў «род», «радзіцца», «радава́цца», ад імя міфічнага бога Рады і г. д. На Р. кожная сям'я ішла памінацьродзічаў спачатку ў царкву, а потым на могілкі, дзе прыводзілі ў парадак магілы блізкіх. Рассцілалі на насыпе абрус і пачыналі памінальную трапезу, якая нагадвала стараж. язычніцкую трызну. Крыху стравы (фарбаваныя яйкі, куццю, мяса і інш.) і гарэлкі пакідалі «для мёртвых». У размовах успаміналі нябожчыкаў, часта гучалі галашэнні. Рэшту памінальных страў раздавалі жабракам. Правядзенне Р. заканчвалася застоллем дома ці ў карчме. (Казалі: «На Р. да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары скачуць»). У некаторых мясцінах Палесся Р. падмянялася т. зв. «наўскім вялікаднем» (праваслаўная царква звязвала з Р. свята ўваскрэсення Хрыстовага), які адбываўся ў чацвер велікоднага тыдня. На У Беларусі функцыю Р. выконвалі летнія (траецкія) *дзяды*. З днём правядзення Р. звязваліся разнастайныя нар. назіранні і павер'і. Калі яе прыход супадаў з маладзіком — чакалі добрага ўраджаю, калі ж месяц быў у апошняй квадры — прадказвалі няшчымніцу. На Р., якая мела назву «вялікадня мёртвых», не пажадана было нічога садзіць і сеяць. Правядзенне абрадавых рытуалаў на Р. калісьці накіроўвалася на тое, каб задобрыць душы продкаў, заслужыць іх садзеянне ў жыцці і гаспадарцы. Трывалае існаванне Р. і ў наш час тлумачыцца душэўнай патрэбай жывых ушанаваць памяць памерлых.

*У. А. Васілевіч.*



Радзімічы. Рэканструкцыя твару па чэрапу (з курганнага могільніка ў вёсцы Юдзічы Рагачоўскага раёна).

**РАДЗІМІЧЫ,** усходнеславянская этнічная супольнасць. Жылі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны па цячэнні Сажа і яго прытоках. Паводле летапісу, назва паходзіць ад імя Радзім, на чале з якім Р. прыйшлі з прапольскіх (ляшскіх) зямель. Р. паступова асімілявалі суб-

стратнае насельніцтва — дняпроўскіх балтаў. Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі (жалеза- і дрэваапрацоўчае, ювелірнае, ганчарнае, гарбарнае), рыбалоўствам, бортніцтвам, прадзеннем, ткацтвам. Найбольш даследаваныя археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі 10—12 ст. Пахавальны абрад — трупаспаленне (10— пач. 11 ст.), пазней — трупапалажэнне. Сярод пахавальнага інвентару пацеркі, падвескі, пярсцёнкі, бранзалеты, спражкі, гаршкі, прылады працы і інш. Характэрныя племянныя адзнакі — бронзавыя або сярэбраныя сяміпрамянёвыя і сямілапчатыя скроневыя кольцы, біэліпсоідныя, язычковыя, пятлістыя, гронкавыя падвескі, пласткаватыя грыўні. У жаночым касцюме спалучаліся сяміпрамянёвыя і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, дробны бісер, золаташкляныя пацеркі і падвескі, якія сімвалізавалі нябесныя свяцілы. У 885 кіеўскі кн. Алег вызваліў Р. ад залежнасці хазараў і абклаў іх данінай, у пач. 10 ст. ў складзе яго войска Р. удзельнічалі ў паходзе на Царград. У пач. 970-х г. Р. выйшлі з-пад улады кіеўскіх князёў, у 984 разбіты на р. Пяшчань каля Прапошаска (Слаўгарада) ваяводам князя Уладзіміра Святаславіча Воўчым Хвастом і іх зямля замацавалася ў складзе Кіеўскай Русі. У 11 ст. тэр. Р. у Смаленскім і Чарнігаўскім княствах. Да 12 ст. адносяцца пісьмовыя звесткі пра гарады на зямлі Р.— Прупой (Прапошаск), Гомель, Рагачоў, Чачэрск. Апошні раз упамінаюцца ў летапісе пад 1169.

*У. У. Багамольнікаў.*

**РАДЗІНЫ**, святкаванне з нагоды нараджэння дзіцяці; адзін са звычаяў радзіннай абраднасці беларусаў. Адначалі звычайна ў дзень царкоўнага хрышчэння — абраду афіцыйнага далучэння новапароджанага да праваслаўнай ці каталіцкай веры, які адбываўся ў нядзелю праз 2—3 тыдні пасля нараджэння дзіцяці. Таму Р. называлі яшчэ хрэсьбінамі, хрысцінамі (ксцінамі). У час хрышчэння дзіцяці давалі імя, звычайна аднаго з святых. Паралельна з хрысціянскім існаваў і стараж. язычніцкі абрад далучэння нованароджанага да сям'і, абшчыны, які быў вядомы ўсім стараж. славянам. *Бабка*-павітуха купала дзіця, затым, трымаючы яго на руках, разам з *кумамі* абыходзіла 3 разы вакол стала, на якім ляжаў хлеб. Хлеб яны за кожным разам цалавалі і пасля гэтага кумы з нованароджаным адпраўляліся ў царкву. На У Беларусі пасля купання дзіця клалі на кажух, разасланы на падлозе каля парога ці печы, жадаючы пры гэтым шчасця, здароўя і багацця. На Р. дазваляласа прысутнічаць па запрашэнню гаспадароў толькі жанатым мужчынам і замужнім жанчынам. Жанчыны неслі разнастайныя прадукты харчавання, мужчыны — грошы. На стол падавалі стравы, прыгатаваныя гаспадыняй і прынесеныя гасцямі (колькасць страў павінна была быць няпарнай: 3, 5, 7 і г. д.). Спецыяльнага абрадавага дзеяння, якое пачынала б Р. на Беларусі, за выключэннем Палесся і некаторых паўн. раёнаў, не было. У гэтых рэгіёнах Р. пачыналі з абраду «перапівання кумоў»: гаспадар выпіваў чарку, клаў туды грошы і напоўненую перадаваў куму. Той рабіў тое ж самае і перадаваў чарку са сваімі дарамі гаспадару. На астатняй тэрыторыі, калі кумы вярталіся з нованароджаным з царквы і збіраліся госці, гаспадар запрашаў усіх за стол. Па традыцыі самыя ганаровыя месцы за сталом належалі кумам і бабцы-павітусе. Кумы за сталом прытрымліваліся пэўных правіл паводзін: імкнуліся шмат гаварыць, жартаваць, каб дзіця ў будучым было гаваркое, прыхільнае да людзей. На Палессі кумы сядзелі на куце побач, каб дзіця, як вырасце, жыло з усімі ў згодзе. Спецыяльнай абрадавай стравай на Р. была *бабіна каша*. У некаторых паўн. раёнах Беларусі на Р. адбывалася абрадавае дзеянне, якое мела сувязь са звычаямі *кувады*. Бацьку дзіцяці падавалі лыжку кашы, перамешаную з соллю і хрэнам, або спецыяльны «хрысцінны збіцень» (сумесь рэдзькі, мёду, хрэну, солі і г. д.). Бацька з усмешкай і жартамі павінен быў усё гэта з'есці і палажыць на талерку грошы. Вялікае значэнне на Р. меў абмен падарункамі, ручнікамі, наміткамі, палатном, хлебам. Атрымаўшы падарунак, бабка-павітуха станавілася на ўслон і, прыгаворваючы разнастайныя пажаданні дзіцяці, тры разы перакручвалася. У паўн., усх. і цэнтр. раёнах Беларусі павітуха выконвала абрад «ачышчэння» ўсіх прысутных на Р., які павінен быў садзейнічаць іх здароўю і дабрабыту. Яна налівала ў міску вады, насыпала аўса і гэтай сумессю націрала твары гасцей, пачынаючы з парадзіхі, яе мужа і кумоў, выказваючы кожнаму пажаданні: «Каб ты быў крэпак, як вада, багат, як зямля, вясёл як пчала, а красён, як вясна». Дзеці прымалі актыўны ўдзел у святкаванні Р. і выконвалі пэўныя абрадавыя дзеянні. Пасля падзелу бабінай кашы дзеці хапалі яе і хутка ўцякалі на двор. Па народнаму меркаванню, гэта садзейнічала таму, што нованароджаны, як вырасце, будзе хутка бегаць. На Р. выконваліся абрадавыя радзінныя песні, прысвечаныя парадзісе, яе мужу, кумам, бабцы-павітусе (гл. ў арт. *Сямейна-абрадавая паэзія*). Абрадавыя песні былі арганічна ўключаны ў ход Р., папярэднічалі пэўнаму абрадаваму дзеянню або тлумачылі яго. На Р. гучалі прыказкі, прымаўкі, жарты, разнастайныя пажаданні нованароджанаму, яго бацькам, у якіх знайшлі адлюстраванне маральныя нормы і цэнасныя арыентацыі бел. сялянства. На працягу абраду Р. госці імкнуліся не звяртаць на новапароджанага ніякай увагі, каб «не сурочыць» яго. На Р. таксама, як і ў *вясельных гульнях*, было распаўсюджана пераапрананне: так званыя «задзеланыя» разыгрывалі разнастайныя жартоўныя сцэнкі. Асабліва ў час падзелу бабінай кашы (уносілі спачатку гаршчок з катом, пеўнем, бульбай, бураком і прапаноўвалі купіць гэтую «кашу» за вялікія грошы). На З Беларусі, калі падавалі бабіну кашу, упрыгожаную вялікімі папяровымі кветкамі, хто-небудзь з «задзеланых» браў сякеру і ішоў «лес



сячы на кашы». Часта адзін з удзельнікаў пераапранаўся ў «бусла» (надзяваў вывернуты кажух, рукавы якога звязвалі над галавой). «Бусел» віншаваў бацькоў нованароджанага, абяцаў прыносіць ім дзяцей штогод. Звычайна падзел бабінай кашы азначаў канец сзяткавання Р. Але ў паўн.-ўсх., цэнтр. і паўд.-ўсх. р-нах Беларусі быў спецыяльны завяршальны абрад пад назвай «цягаць бабу на баране». Госці выходзілі на двор, рыхтавалі санкі ці калёсы, на якіх клалі зуб'ем уніз барану, засланую кажухом, садзілі бабу і везлі яе па вуліцы дахаты. У больш раннія часы ў абрадзе выкарыстоўвалі толькі барану, пакрытую кажухом, што ў народзе ўспрымалася як сімвал аховы ад «злых сіл» і пажаданне багацця. Часам бабу ўпрыгожвалі каснікамі, пер'ем, госці вымазвалі сабе твар сажай, спявалі, крычалі, білі палкамі ў пустыя вёдры і г. д. Бабка-павітуха пасля гэтага частавала ўсіх прысутных за свой кошт. У канцы 19 — пачатку 20 ст. ў радзіннай абраднасці прасочваліся сацыяльныя і культурныя традыцыі, якія грунтаваліся на прынцыпах патрыярхальнай сям'і. У святкаванні Р. цесна перапляліся стараж. язычніцкія элементы, звязаныя з культам розных духаў (ахукванне часнаком, абвязванне чырвонай ніткай, выкідванне платы «нячыстай сіле» на скрыжаванні дарог, на мосце і г. д.) і царкоўная абраднасць (хрышчэнне).

У наш час Р. таксама шырока адзначаюцца. У трансфармаваным выглядзе ў іх захоўваюцца шматлікія традыцыйныя абрадавыя элементы, у першую чаргу гуманістычнага характару, якія дапамагаюць людзям запамінальна адзначыць нараджэнне чалавека і падтрымліваць добрыя сяброўскія і суседскія адносіны. Афіцыйная рэгістрацыя нованароджаных як найбольш характэрная рыса сучаснай радзіннай абраднасці мае дзве формы праяўлення: звычайная рэгістрацыя без спецыяльных абрадавых дзеянняў і ўрачыстая рэгістрацыя, якая мае рытуальна-святочны характар (абрад *імянарачэння*). У побыце пэўнай часткі гарадскіх і асабліва сельскіх жыхароў яшчэ захаваўся абрад царкоўнага хрышчэння.

*Т. І. Кухаронак.*

**РАДЗЮ́ЖКА,** посцілка з грубай ільняной пражы, вытканая ў чатыры ніты і сшытая з дзвюх полак; тое, што і *дзяруга.* Лакальная назва дзяружка.

**РАДКАВЕ́Ц** Ігнацій Іванавіч (1849, в. Аголічы Петрыкаўскага р-на —?), беларускі фалькларыст, этнограф. Вучыўся ў Петрыкаўскім нар. вучылішчы. Працаваў пісарам у ваенным ведамстве, з 1878 валасным пісарам у в. Грабаў, Дзякавічы і мяст. Лельчыцы. У 1889 запісаў вясельны абрад у в. Дзякавічы Мазырскага пав. і тэксты песень, звязаных з ім (надрукаваны ў кнізе П. В. Шэйна «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», 1902, т. 3). Адзін з карэспандэнтаў Шэйна, у архіве якога (Ленінград) зберагаюцца і інш. запісы Р.

*А. Ю. Лозка.*

**РАДНО́,** тоўстае палатно з пянькі або грубай ільняной пражы, а таксама выраб з такога палатна.

**РАДНЯ́,** гл. ў арт. *Роднасць і сваяцтва.*

**РА́ДЧАНКА** Зінаіда Фёдараўна [1839, в. Старыя Дзятлавічы Гомельскага р-на —5(18).3.1916], беларускі фалькларыст і этнограф. Правадзейны чл. Рускага геагр. т-ва (1887). Цікавілася матэрыяльнай і духоўнай культурай бел. народа, фальклорам, асаблівасцямі бел. гаворкі. Склала «Зборнік маларускіх і беларускіх песень Гомельскага павета, запісаных для голасу з акампанементам фартэпіяна» (1881), у які ўключыла 30 песень з напевамі. У прадмове да зборніка «Гомельскія народныя песні (беларускія і маларускія). Запісаны ў Дзятлавіцкай валасці Гомельскага павета Магілёўскай губерні Зінаідай Радчанка, з дадаткам 83 мясцовых прыказак» (1888, 676 песень) апісала побыт сялян, іх абрады і звычаі — адзенне, стравы, пабудовы, вяселле, вячоркі, купалле, каляды, карагоды, жніво, талаку і інш. Першая з даследчыкаў 19 ст.



Раўні.



Разец для апрацоўкі дрэва.



Ражка.



Агоўская **размалёўка** (фрагмент куфра).



**Размалёўка** па шкле. Маларыцкі раён.

адзначыла двухгалоссе ў спевах беларусаў.

*Тв.*: Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилёвской губернии Гомельского уезда Дятловицкой волости (180 песен). Спб., 1911. *Г. А. Пятроўская.*

**РАЁК**, від паказу на кірмашах. Пашыраны ў Расіі і на Беларусі ў 19 — пач. 20 ст. Дэкарыраваная скрынка з адтулінамі (у іх устаўляліся павелічальныя шкельцы), праз якія разглядалі прымацаваныя да вяртушкі карцінкі рэлігійнага і свецкага зместу, нар. *лубкі* і інш. Паказ суправаджаўся вершаванымі (звычайна імправізаванымі) тлумачэннямі акцёра-раёшніка. Раёшнікамі ці ралёшнікамі часта называлі і бел. батлеечнікаў.

**«РАЁК»**, старадаўняя гульня. Удзельнікі станавіліся адзін за адным і кожны моцна абхватваў за талію папярэдніка. Той, хто стаяў наперадзе, імкнуўся схапіць апошняга ў ланцужку, які мог уцякаць, але не адрываючыся ад астатніх удзельнікаў. Ланцужок выкапаўцаў у час гульні нагадваў дзіўную, доўгую, гнуткую істоту, якая быццам бы хоча схапіць сябе за хвост. Часам «Р.» выконвалі пад музыку. Гульня зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Докшыцкім раёне. *А. Л. Варламаў.*

**РАЁЎНЯ**, круглая лубяная каробка з накрыўкай для аграбання раёў і пераноскі іх з места лоўлі на пасеку. Называлі таксама раёўка, райніца, раяўня, раёўніца, каробка, лубка.

**РА́ЖКА**, пасудзіна для кармлення жывёлы; бандарны выраб. Падобна да *цэбра*, але меншых памераў (ёмістасць 15—20 л). Рабілі Р. з кароткіх клёпак, па форме — цыліндрычную ці крыху расшыраную ўверсе. Нярэдка мела ножкі, утвораныя трыма падоўжанымі клёпкамі. Яшчэ дзве больш доўгія клёпкі выступалі зверху і мелі адтуліны, утвараючы вушкі. Да вушак Р. прымацоўвалі пяньковую ці лыкавую повапку. Звычайна ў Р. таўклі парапую бульбу і замешвалі напаўвадкі корм (мешынку) для свіней. У наш час амаль выйшла з гаспадарчага ўжытку. *В. С. Цітоў.*

**РАЗА́К**, 1) прылада, што ўжывалася для падсобных землярробчых работ, выкарыстоўвалася пры апрацоўцы абложнай зямлі, дзярніны, лугу. Р. разрэзвалі зямлю на палоскі перад сошным ворывам. Востры доўгі нож (звычайна кавальскай работы) мацаваўся паміж вобжамі пад тупым вуглом да зямлі. 2) Прылада для капання торфу.

**РАЗВАЛКІ**, р о з в а л ь н і, найбольш пашыраны від саней на Беларусі. Паверх пагрузачнай пляцоўкі (для яе павелічэння) уздоўж саней прымацаваны 2 жэрдкі з папярочкай на канцах — развалкі (адсюль і назва). Выкарыстоўваюцца на гаспадарчых работах і для выездаў (тады на Р. ставяць кузаў — трохбаковую рашотку, або драбінкі, плецены палукашак). Бытуюць і ў наш час.

**РАЗЕНФЕ́ЛЬД** Аляксандр Аляксандравіч [13(25).10.1872, Мінск — ?], беларускі фалькларыст і этнограф. Скончыў Пецярбургскі ун-т. Працаваў выкладчыкам у гімназіях. З 1898 у Пецярбургскім ун-це, з 1910 прыват-дацэнт, быў кіраўніком Бел. навуковалітаратурнага гуртка студэнтаў ун-та. Бел. фальклорам займаўся з 1903. У 1904 апублікаваў «Беларускія народныя песні», запісаныя ў ваколіцах Радашковіч, у Сёмкавым Гарадку, Рубяжэвічах, Астрашыцкім Гарадку Мінскага пав., невялікую колькасць песень сабраў у Барысаўскім і Рэчыцкім пав. Публікацыя цікавая ўзорамі каляндарна-абрадавай, вясельнай паэзіі, пазаабрадавай лірыкі, баладамі. Зборнік дакладна перадаў дыялектна-моўныя асаблівасці песень. Напісаў фальклорна-этнагр. эцюд «З жыцця беларуса», прысвечаны зажынкавым і дажынкавым абрадам, песням (зберагаецца ў Геагр. т-ве СССР ў Ленінградзе). *А. С. Ліс.*

**РАЗЕ́Ц**, 1) х а к, прылада для падсочкі хваёвых дрэў дзеля здабывання жывіцы. Рабочая металічная частка замацоўваецца на драўляным дзяржаку даўжынёй ад 0,5 да 2,5 м. Канструкцыя Р. разнастайная, але найчасцей ён уяўляе сабой металічную трубку з выгнутай вострай пярэдняй часткай. Р. робяць на ствале дрэва нарэзкі (насечкі) у выглядзе елачкі. 2) Рэжучы інструмент для апрацоўкі металу, дрэва (аздабленне кузаваў вазкоў, выраб выдзеўбанага посуду і інш.)




**Размалёўка.** Маляваны дыван. Вёска Курдзекі Докшыцкага раёна.



Дэкаратыўная талерка (**размалёўка** па дрэве).

**РАЗМАЛЁЎКА**, арнаментальныя ці сюжэтныя кампазіцыі, выкананыя фарбамі на розных частках архітэктурных збудаванняў, мэблі, рэчах хатняга ўжытку і інш.; від *народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.* На Беларусі Р. манументальна-дэкаратыўнага характару вядома з 11 ст. (фрэскі). У 15—18 ст. пашырылася Р. на кераміцы ангобамі, палівамі і эмалямі розных колераў (кафля, посуд), шкле (размаляваны эмалямі посуд мануфактур Урэчча і Налібак), фаянсе (посуд і дробная пластыка мануфактур у Целяханах і Свержані), метале (абклады кніг, крыжы, літургічны посуд) і інш. З 2-й пал. 19 ст. ў сувязі з сацыяльна-эканам. зменамі ў грамадстве і паляпшэннем стану нар. жылля Р. набыла пашырэнне і ў нар. побы-

це, з пач. 20 ст. вылучылася ў самастойны від нар. мастацтва. У многіх месцах (пераважна на Палессі) бытавала паліхромная Р. пабеленых печаў раслліннымі кампазіцыямі; здаўна ў побыце вядомы *пісанкі*. Найбольш пашырана Р. расліннага, геаметрычнага, зааморфнага характару, на мэблі і посудзе — таксама *фляндроўка*. У 1-й пал. 20 ст. шырока бытавала Р. куфраў (гл. *Агоўская размалёўка*), насценных дываноў (гл. *Маляваныя дываны*), ганчарных вырабаў (гл. *Ангобная размалёўка*). З паяўленнем у нар. побыце таннага аконнага шкла і адпаведных фарбаў пашырылася Р. па шкле (найбольшага развіцця дасягнула ў 1920—50-я г.). На прамавугольных кавалках шкла алейнымі фарбамі малявалі абразкі, дэкаратыўныя арнаментальныя і сюжэтныя кампазіцыі. Асноўная тэматыка — зааморфныя (жывёлы і птушкі ў кветкавых гірляндах) і раслінныя матывы (кветкі, букеты, вазоны), а таксама пейзажы, казачныя сюжэты і інш., выкананыя сакавітымі фарбамі, часта з чорнай абводкай па контуры на белым, чорным, сінім фоне (пад малюнкі, выкананыя празрыстымі лакамі, часам падкладвалі фольгу). Выявы раслін, жывёл, птушак і людзей плоскасныя з мудрагелістымі абрысамі. Узоры Р. па шкле ўносілі ў традыцыйны інтэр'ер нар. жылля гучны мажорны пачатак, пераклікаліся з Р. на куфрах, дыванах, пабеленых сценках печаў, ткацкімі і вышыванымі ўзорамі. У Давыд-Гарадку Столінскага р-на бытуе Р. плакетак: на невялікіх кавалках фанеры па блакітным ці чорным фоне малююцца выявы кветак ці агародніны (такімі плакеткамі суправаджаецца продаж насення на рынках). Значнае пашырэнне ў наш час набыла разнаколерная Р. сцен, ліштваў, ганкаў, франтонаў, варот. У 1960—80-я г. рэчы дэкаратыўна-прыкладнога і сувенірнага характару (насценныя пано, кухонныя наборы, куфэркі, цацкі), аздобленыя традыцыйнай Р. па дрэве, шкле, палатне, выпускаюць прадпрыемствы мастацкай прамысловасці БССР.

*Я. М. Сахута.*



**Разьба па дрэве.** Г. Асіпкова. Кампазіцыя «А ў полі вярба...». 1981.



**Разьба па дрэве.** Самшытавы грэбень. З раскопак Мінскага замчышча. 13 ст.





**Разьба па дрэве.** Дэкор акон. Вёска Тарасаўка Веткаўскага раёна. 1950-я г.



**Разьба па дрэве.** Фрагмент дэкору прасніцы. Камянецкі раён. Канец 19 ст.



**Разьба па дрэве.** Дэкаратыўная талерка. 19 ст.

**РАЗЬБА́ ПА ДРЭ́ВЕ**, спосаб апрацоўкі драўніны з дапамогай нажа, разца, сякеры, свердла, пілы і інш. Вядома са старажытнасці ў многіх народаў. Выкарыстоўваецца пры вырабе прадметаў побыту, посуду, транспартных сродкаў, прылад працы, для ўпрыгожвання будынкаў, стварэння скульптурных кампазіцый, маст. вырабаў і інш. На Беларусі пашырана некалькі відаў: к о н т у р н а я р а з ь б а выконваецца заглыбленымі лініямі па гладкім фоне, нагадвае гравіраванне; в ы е м ч а т а я р а з ь б а (пераважна трохграnна-выемчатая) утварае ўзор, заглыблены ў гладкі фон; р э л ь е ф н а я р а з ь б а мае заглыблены фон і ўзнятыя над ім формы выявы — нізкарэльефныя (барэльеф) ці высокарэльефныя (гарэльеф); с к р а з н а я р а з ь б а





**Разьба па косці.** Ігольнік. З раскопак у Навагрудку. 12 ст.

**Разьба па косці.** Вухачыстка з выявай музыканта. З раскопак у Навагрудку. 12 ст.

(ажурная) не мае фону і ўяўляе сабой ажурную кампазіцыю (у залежнасці ад размяшчэння ўзору ў адной ці некальких плоскасцях адрозніваюць плоскаажурную і аб'ёмна-ажурную Р. па д.); а б ' ё м н а я  р а з ь б а стварае трохмерную выяву, звычайна скульптуру. Найбольш старадаўняя — контурная і аб'ёмная разьба. Ад каменнага веку захаваліся фігуркі чалавека і жывёл, выразаныя вельмі схематычна і ўмоўна. У 9—13 ст. геаметрычным («вочкавым») арнаментам аздаблялі грабяні, лыжкі, чарпакі, прылады працы, зброю. Інтэр'еры культавых будынкаў, палацаў, сядзіб, мэблю ў 14—16 ст. аздаблялі нізкарэльефнай разьбой, якая ў 17—18 ст. развілася ў аб'ёмна-ажурную («беларускую рэзь»). Р. па д. таго часу характарызуецца цеснай сувяззю з архітэктурай, у ёй адбіліся пануючыя маст. стылі — барока, ракако, з канца 18 ст.— класіцызм. Разьбой упрыгожвалі іканастасы, алтары, амбоны, арганы, сцены палацаў і культавых будынкаў. У нар. побыце найбольшае пашырэнне мела трохгранна-выемчатая разьба геаметрычнага характару, якой аздаблялі прылады працы, хатняе начынне, посуд, транспартныя сродкі. З канца 19 ст. ў нар. драўляным дойлідстве набыла пашырэнне *прапілоўка*, якою аздаблялі ліштвы, карнізы, ганкі, а таксама мэблю. У наш час Р. па д. займаюцца многія нар. майстры, прафесійныя і самадзейныя мастакі. Пашыраны ўсе віды разьбы, асаблівую папулярнасць набыла драўляная скульптура. Утылітарна-дэкаратыўныя вырабы і сувеніры ў тэхніцы Р. па д. выпускаюць многія прадпрыемствы маст. прамысловасці БССР.

*Я. М. Сахута.*

**РАЗЬБА́ ПА КО́СЦІ**, спосаб апрацоўкі косці з дапамогай сякеры, нажа, пілы, свердла. На тэр. Беларусі вядома з часоў позняга палеаліту. Касцяныя і рагавыя арнаментаваныя вырабы трапляюцца на неалітычных стаянках. У доўгіх курганах на Полаччыне выяўлены мініяцюрныя касцяныя фігуркі каня і качкі (2-я пал. 1-га тысячагоддзя). Росквіту Р. па к. дасягнула ў 12—13 ст., яе ўзоры знойдзены ў Полацку, Ваўкавыску, Тураве, Брэсце, Копысі, Мінску, Друцку, Пінску, Мсціславе, Гродне, Навагрудку і інш. Матэрыялам для стварэння рэчаў бытавога і дэкаратыўна-прыкладнога характару служылі рогі ласёў, аленяў, косці жывёл, птушак, клыкі дзікоў і інш. На гатовыя вырабы (тронкі нажоў, накладкі калчаноў, грабяні, гузікі, вухачысткі) часта наносілі геаметрычны арнамент у тэхніцы гравіравання. Найбольш пашыраны від дэкору — т. зв. «вочкавы» арнамент: круг з кропкай пасярэдзіне, які наносілі спец. цыркульным разцом з вострымі краямі. Вырабы часта аздаблялі ў тэраталагічным стылі — плоскімі графічнымі выявамі драконаў, сабак, барсаў, грыфонаў. Высокамастацкія ўзоры дробнай пластыкі 12—13 ст.— шахматныя фігуркі, якія даюць дакладнае ўяўленне пра касцюм, прычоскі, убранне таго часу. У 13—16 ст. разьбянымі касцянымі накладкамі аздаблялі абклады кніг, абразоў, зброю, конскую вупраж, пашыралася *такарнае рамяство* па косці. У 17 ст. Р. па к. і тачэнне былі развіты ў Копысі, Віцебску і інш., майстры якіх (К. Талкачоў, І. Мікіцін, С. Багданаў, Д. Какотка, І. Дракула, Ф. Гаўрылаў) працавалі ў Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля, дзе выраблялі са слановай косці шахматы, чарніліцы, грабяні, рогі для віна, парахаўніцы, посуд. У 19—пач. 20 ст. Р. па к. існавала як дробнае рамяство ці дапаможны занятак. З рагоў жывёл выраблялі грабяні, парахаўніцы, раструбы музычных інструментаў. У наш час дробныя рэчы з косці (сувеніры, біжутэрыю) выробляюць майстры некаторых фабрык маст. вырабаў і Маст. фонду БССР.

*Я. М. Сахута.*





**Ракаўская кераміка** (цацкі і міска).

**РА́КАЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з в. Ракаў Валожынскага р-на. Як ганчарны цэнтр Ракаў вядомы з 16 ст. Тут выраблялі гаспадарчы посуд, аздоблены вышчнутым арнаментам ці ангобнай размалёўкай у выглядзе прамых і хвалістых канавак, завіткоў, рысак, раслінных парасткаў, а таксама кафлю з рэльефным малюнкам рэнесансавага характару (выявы раслін, жывёл, сюжэтныя сцэны). Асаблівага развіцця дасягнула Р. к. ў 19— пач. 20 ст. (працавала больш 100 ганчароў). Р. к. славілася па ўсёй паўн.-зах. Беларусі, дэманстравалася на саматужніцка-прамысловай выстаўцы ў Вільні і Усерасійскай выстаўцы ў Пецярбургу (1913). Паводле памераў і аб'ёмаў посуд меў пэўныя назвы (гл. *Ганчарная сістэма мер*). Посуд, які вызначаўся пластычнымі акруглымі форма-

мі, звычайна пакрывалі звонку і знутры празрыстай палівай, у 1920—30-я г. нярэдка аздаблялі падпаліўнай ангобнай размалёўкай у выглядзе карычневых і белых паяскоў, раслінных парасткаў, белых, зялёных, карычневых кветак, нанесеных каляровымі эмалямі. Была таксама пашырана вытворчасць дэкаратыўнай керамікі: букетнікаў, талерак з пажадальнымі надпісамі, попельніц і чарнільных прыбораў з ляпнінай, фігурных пасудзін у выглядзе бараноў, ільвоў, мядзведзяў, дзіцячых цацак. Наіўна-рэалістычнай трактоўкай персанажаў, гумарыстычным адлюстраваннем рэчаіснасці вызначалася дробная пластыка 1920—30-х г. у выглядзе фігурак коннікаў, кавалераў і паненак у характэрным адзенні, з музычнымі інструментамі ці букетамі ў руках. З 1939 працавала арцель «Чырвоны ганчар» (у 40—50-я г.—«3-га ліпеня»), якая выпускала посуд нешырокага асартыменту і кафлю. Калекцыя Р. к. 1920—30-х г. зберагаецца ў Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР.

*Я. М. Сахута.*

**РА́ЛА**, старажытная ворыўная прылада. Папярэднічала *сохам* і плугам. Была пашырана ва ўсіх земляробчых народаў. У тыповым варыянце складалася з рабочай часткі — ральніка, на канец якога насаджваўся жалезны сіметрычны наросток (наральнік), градыля (дышля) і ручак для кіравання. У розных рэгіёнах Беларусі Р. адрозніваліся формай рабочай часткі, вуглом яе нахілу, сувяззю з корпусам, формай градыля, пастаноўкай ручак і інш. Гэта абумоўлівала розныя агратэхнічныя магчымасці Р. і спосабы яго ўздзеяння на глебу. Паводле канструкцыйных асаблівасцей падзяляліся на Р. з полазам і без полаза, прамаградзільнае і крываградзільнае (крукавае), якія ў сваю чаргу мелі шэраг прыватных варыянтаў. Самае старажытнае вядомае на Беларусі Р. знойдзена ў тарфяніку каля в. Капланавічы Клецкага р-на. Належала плямёнам *зарубінецкай культуры.* Яно зроблена з дубовага ствала з сукам, што ўтвараў ральнік (паўзун). У задняй частцы (пятцы ральніка) скразная адтуліна, куды ўстаўлялася ручка. Да прылад ральнага тыпу адносяць *акучнік* (сошка) і працейшыя віды сох, што зрэдку выкарыстоўваюцца ў асабістых гаспадарках і ў наш час.

*В. С. Цітоў.*

**РАЛЬНІ́К**, земляробчая прылада для пракладкі міжрадковых разор і акучвання бульбы; тое, што і *акучнік.*

**РАМА́НАЎ** Еўдакім Раманавіч [30.8(11.9).1855, мяст. Нова-Беліца, цяпер у межах Гомеля —20.1.1922), беларускі этнограф, фальклярыст, археолаг. Правадзейны член Рускага геагр. т-ва (1886), Маскоўскага т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (1888), Маскоўскага археал. т-ва (1890, член.-кар. 1886), Віцебскага статыстычнага камітэта (1891). Скончыў Гомельскую прагімназію (1870), курсы настаўнікаў рускай мовы і гісторыі (1872). Працаваў настаўнікам (1872—86), інспектарам нар. вучылішчаў Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай губ. (1886—1906), член Часовай камісіі па ўладкаванню Віленскай публічнай б-кі і музея (1906—16). У 1897—1903 рэдактар неафіцыйнага аддзела газ. *«Могилёвские губернские ведомости»*; у 1900—03 пад яго рэдакцыяй выдадзены 3 выпускі *«Могилёвской старины»*. З 1910 загадчык секцыі этнаграфіі і археалогіі Паўн.-Зах. аддзялення Рускага геагр. т-ва. З 1917 жыў у Стаўрапалі. Вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў: жыллё, адзенне, сямейны побыт, нар. абрады, вераванні, нар. каляндар і медыцыну, дзіцячыя гульні. Апублікаваў больш за 200 прац па этнаграфіі, фальклору, гісторыі, археалогіі і мове беларусаў, больш за 10 тыс. фальклорных твораў. Адстойваў правы бел. народа на развіццё нацыянальнай культуры, мовы, навукі і літаратуры. Асноўная фальклорна-этнагр. праца — «Беларускі зборнік» (вып. 1—9, 1886—1912) — своеасаблівая энцыклапедыя побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу. Сярод прац: «Матэрыялы па этнаграфіі Гродзенскай губерні» (вып. 1—2, 1911—12), «Крыніцы для гісторыі Магілёўскага краю» (вып. 1, 1916). У 1886—94 вёў археалагічныя раскопкі ў Магілёўскай і Віцебскай губ., адкрыў помнік эпіграфікі 12 ст. Барысаў камень (каля в. Высокі Гарадзец Талачынскага р-на). Склаў археалагічныя карты Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губ. Сабраў звесткі пра 1000 гарадзішчаў Беларусі, выявіў шмат стаянак першабытнага чалавека, вёў антрапалагічныя даследаванні. У 1901 апублікаваў (са скарачэннямі) працу А. Меера «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года». У 1900 выдаў зборнік «Тарас на Парнасе і іншыя беларускія вершы» (у 1902 дапоўненае выданне).



Е. Р. Раманаў.

*Тв.*: Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский. Могилёв, 1898; Учебник русской грамматики. 4 изд. Могилёв, 1904; Беларускія народныя казкі: (Са зборнікаў Е. Р. Раманава). Мн., 1962.

*В. К. Бандарчык.*

**РАМАНЮ́К** Міхаіл Фёдаравіч (н. 3.1.1944, в. Кавалі Брагінскага р-на), беларускі савецкі мастацтвазнавец, этнограф і мастак. Кандыдат мастацтвазнаўства (1975). Чл. КПСС з 1978. Скончыў Бел. тэатральна-мастацкі ін-т (1971), з 1974 выкладчык гэтага ін-та (дацэнт з 1982). У 1982—84 гал. рэдактар часопіса «Мастацтва Беларусі». У мастацкіх выстаўках удзельнічае з 1972. Даследуе пытанні нар. мастацтва, матэрыяльнай культуры. Зрабіў мастацтвазнаўча-этнагр. рэканструкцыю раяніраванне бел. нар. адзення 19—пач. 20 ст. (альбом «Беларускае народнае адзенне», 1981). Калекцыя бел. нар. адзення, сабраная Р., экспанавалася ў Мінску (1981), Парыжы і Ліёне (1981—82). Стварыў сцэнічныя касцюмы для Дзярж. акадэмічнага нар. хору БССР (1974) і некаторых самадзейных калектываў.

*Тв.*: Паэзія беларускага народнага касцюма //Беларускі каляндар 1982. Беласток, 1982; Мастацтвазнаўча-этнаграфічнае раяніраванне беларускага Палесся: (Па матэрыялах народнага касцюма, узорыстага ткацтва і вышыўкі беларусаў канца XIX—сярэдзіны XX ст.) //Помнікі старажытнабеларускай культуры. Мн., 1984; у кн.: Народные мастера. Традиции, школы. М., 1985. Вып. 1; Costume national biélorusse. Paris, 1981.

*І. У. Саламевіч.*

**РАМЁСТВЫ І ПРО́МЫСЛЫ**, дробная вытворчасць, заснаваная на індывідуальнай ручной працы. Паралельнае ўжыванне тэрмінаў Р. і п. адлюстроўвае поўнае ці частковае супадзенне іх прадметнага зместу, а разыходжанні звязаны з асэнсаваннем іх з пункту гледжання сацыяльна-эканам. характарыстыкі, сувязі з земляробствам, адносін да спажыўца і інш. Рамёствы — вытворчасць прамысловых вырабаў уручную з выкарыстаннем механічных прылад і інструментаў, майстэрства ўмелых рук (старажытна-рускае рукамясло). Промыслы — падсобная ў сельскай гаспадарцы вытворчасць, якая ўключае рамёствы і інш. пеземляробчыя заняткі. Здабыванне гатовых прыродных рэсурсаў складае першасную форму прамысловых (і наогул гаспадарчых) заняткаў і вылучаецца ў асобную групу здабыўных промыслаў — *збіральніцтва, рыбалоўства, паляўніцтва, бортніцтва,* лясныя промыслы і інш. Рамяство — першая гіст. стадыя апрацоўчай вытворчасці, якая папярэднічала сучаснай машыннай прамысловасці. Больш выразная спецыялізацыя апрацоўчай (рамеснай) вытворчасці абумовіла яе разгалінаваную ўнутраную структуру. Паводле зыходнага матэрыялу вылучаюць асобныя рамёствы — дрэваапрацоўчыя, металаапрацоўчыя, гарбарна-футравыя, харчовыя, апра-

цоўка мінеральнай, валакністай сыравіны, выраб адзення, якія ў сваю чаргу складаюцца з больш вузка спецыялізаваных. Р. і п. прайшлі тры гіст. стадыі, якія адлюстроўваюць іх сацыяльныя формы,— дамашняга рамяства, рамяства на заказ і рамяства на рынак, або дробнай таварнай вытворчасці. У гіст. і сацыяльна-эканам. літаратуры прадметны сэнс рамяства нярэдка абмяжоўваецца вытворчасцю на заказ, у той час як рамяство на рынак называюць саматужным промыслам, а дамашняе рамяство (прадметы, прызначаныя для ўласных патрэб) — дамашнім промыслам.

У феадальны перыяд амаль кожны сялянскі двор выступаў як самастойны вытворчы калектыў з шырокім дыяпазонам гаспадарчай дзейнасці. Разнастайныя жыццёва неабходныя прадметы — жыллё, харчовыя прыпасы, адзенне, тканіны, скуры, рэчы хатняга ўжытку, посуд, с.-г. прылады і транспартныя сродкі — усё ў абсалютнай большасці выраблялася на месцы сваімі рукамі. Універсальны характар сялянскай гаспадаркі быў шырокай базай вытворчага вопыту і нар. ўмельства. Народная традыцыя акумулявала шматвяковыя калектыўныя навыкі і вытворчыя веды, што арганічна ўваходзілі ў нац. фонд нар. культуры. У дакапіталістычны перыяд рамёствы былі асноўнай формай прамысловай вытворчасці і адыгрывалі істотную ролю ў жыцці народа. З пашырэннем ведаў і ўдасканаленнем рамеснай тэхнікі больш выразна акрэсліліся спецыялізацыя, грамадскі падзел працы. З сельскага насельніцтва вылучаліся майстры, для якіх рамяство станавілася важнай ці нават асноўнай крыніцай існавання. Частка іх несла дваровую службу пры панскіх ці дзярж. (гаспадарскіх) маёнтках і манастырах. Часам двары-службы ўтваралі цэлыя пасяленні рамеснікаў пэўнай спецыяльнасці — цесляроў, бондараў, гантароў, гарбароў, ганчароў, гутнікаў, буднікаў і інш.; іх прадукцыя забяспечвала патрэбы маёнтка, прадавалася на кірмашах, збывалася за мяжу. Статуты Вял. кн. Літоўскага замацоўвалі пэўныя прывілеі для рамеснікаў, якія паводле свайго юрыдычна-прававога становішча стаялі ў феадальнай іерархіі крыху вышэй за простых сялян-землягробаў. Частку залежных рамеснікаў феадалы сялілі ў горадзе на землях сваіх юрыдык (большасць сярэдніх і малых гарадоў Беларусі былі тады прыватнаўласніцкімі). Гарадское рамяство ў значнай ступені развівалася за кошт прытоку ў горад сельскіх майстроў. Са свайго боку яно ўплывала на развіццё і тэхнічны ўзровень сельскіх рамёстваў. Вырабы сярэдневяковых рамеснікаў спалучалі ў сабе утылітарна-практычныя, эстэтычныя і сімволіка-абрадавыя функцыі і часта з'ўяляліся творамі нар. мастацтва. Развіццю бел. Р. і п., іх спецыялізацыі і арганізацыйнаму ўпарадкаванню садзейнічала магдэбургскае права. У 17 ст. ў гарадах Беларусі значылася каля 200 спецыялізаваных відаў Р. і п. Найбольш пашыраны былі тыя, вырабы якіх карысталіся попытам сярод шырокіх слаёў насельніцтва: у гарадах — кавальскае, кравецкае, шавецкае, гарбарнае, цяслярнае, ганчарнае; у вёсках — розныя віды дрэваапрацоўкі (выраб посуду, с.-г. прылад, цяслярства), апрацоўка лёну і воўны, ткацтва, пляценне, здабыўныя промыслы. Больш выразны падзел працы і актыўныя гандлёва-эканам. сувязі горада абумовілі паскарэнне тэхнічнага ўдасканалення і некаторыя асаблівасці сацыяльна-эканам. арганізацыі гарадскіх Р. і п. Гарадскія рамеснікі аб'ядноўваліся ў прафесійныя арганізацыі — *цэхі рамеснікаў*, куды часам уваходзілі і майстры, што жылі на землях феадальных юрыдык. Спачатку такія карпарацыі называліся брацтвамі (Брэст, Гродна, Мінск, Вільня) або старостамі (Магілёў, Полацк). Статуты розных рамесніцкіх цэхаў, асабліва на першай стадыі іх існавання, выяўлялі мясцовыя асаблівасці, што сведчыць пра іх узнікненне і развіццё на мясцовай самадзейнай аснове. Сельскае насельніцтва, якое перасялялася ў горад, прыносіла з сабой абшчынныя традыцыі. Гэтыя традыцыі складваліся ў нормы *звычаёвага права* і адбіваліся на паўсядзённым жыцці брацтваў. У дзейнасці брацтваў-цэхаў адлюстроўваліся сябрынныя адносіны арцельных т-ваў, вядомых у сельскім і гарадскім рамястве яшчэ ў Стараж. Русі.

Ваенныя падзеі Лівонскай (1558—83), руска-польскай (1654—67), Паўночнай (1700—21) войнаў істотна падарвалі асновы жыццядзейнасці бел. этнасу і яго культуры, згубна адбіліся на развіцці Р. і п. Дэмаграфічны спад, беднасць і галеча скарачалі попыт на рамесныя вырабы. У 2-й пал. 18 ст. пачалі адраджацца традыцыйныя Р. і п. Асабліва хутка расла колькасць такіх рамеснікаў, як кавалі, слесары, цесляры, шаўцы, краўцы, гарбары, злотнікі. Да 19 ст. цэхавае рамяство канчаткова вычарпала свае магчымасці. Аднак яно не знікла бясследна і падрыхтавала глебу для больш сучасных форм вытворчасці. У гэты час побач з рамяством значна пашырылася *мануфактура*, якая ў асноўным функцыяніравала на базе мясцовых нар. промыслаў. Нярэдка мануфактурная і саматужна-рамесная вытворчасць аб'ядноўваліся ў адзінай сістэме вытворчых сувязей. Мануфактуры давалі заказы на выраб пэўнай прадукцыі майстрам-рамеснікам, якія працавалі дома, чым аб'ектыўна падтрымлівалі і стымулявалі развіццё мясцовых Р. і п. У 19 ст. разам з ажыўленнем гандлёва-эканам. адносін прыкметна вызначылася геагр. спецыялізацыя с.-г. і саматужна-прамысловай вытворчасці. На Падняпроўі, як і раней, былі шырока развіты гарбарная, ганчарная, шкляная вытворчасці, лясныя і дрэваапрацоўчыя промыслы. У Падзвінні важнае эканам. значэнне набылі вырошчванне лёну і яго апрацоўка, рыбалоўства, суднабудаванне, каменячосны і кавальскі промыслы, а з дрэваапрацоўкі — цяслярства. Цяслярства, апрацоўка каменю, кавальства нярэдка існавалі тут у форме адыходных промыслаў. У Панямонні былі больш пашыраны вытворчасць сукна, харчовая, гарбарная вытворчасць, шавецкая і кравецкая справа. На Палессі важнае месца займалі здабыўныя промыслы — рыбалоўства, бортніцтва, збіральніцтва, лесахімічны, сталярны, а з рамесных — суднабудаванне, выраб бандарнага і плеценага посуду, апрацоўка ліпавай кары. У асобных паветах і валасцях вылучаліся вёскі ці групы вёсак, дзе асобныя промыслы развіваліся асабліва інтэнсіўна.

Рэформа 1861 узмацніла сацыяльнае расслаенне, вызваліла частку працоўных рэсурсаў для неземляробчых заняткаў і пабочных промыслаў. Частка насельніцтва ў вольны ад земляробчых работ час валіла лес і звозіла яго да рачных прыстаней і чыгунак. Многія ішлі ў адыходныя промыслы на будаўнічыя, земляныя работы, працавалі цеслярамі, мулярамі, печнікамі, грабарамі, рамізнікамі, лоцманамі, сплаўшчыкамі лесу. Ва ўмовах індустрыяльнай вытворчасці намецілася дэвальвацыя ручной працы майстра-рамесніка, што парушыла традыцыйную гармонію рамёстваў і мастацтва. Прыкметна змянілася і структура рамёстваў, іх месца ў грамадскай вытворчасці. Развіццё буйной прамысловасці абумовіла паступовае скарачэнне ткацкага, ганчарнага, экіпажнага промыслаў, звузіліся маштабы вышыўкі, набойкі, крашаніны, менш пашыранымі сталі апрацоўка ліпавай кары, выраб рагож і цыновак. Знішчэнне лясных масіваў і непамерная эксплуатацыя прыродных рэсурсаў прывялі да скарачэння пчалярства, рыбалоўства, палявання, збіральніцтва. Аднак некаторыя Р. і п. да канца 19 — пач. 20 ст. пашырыліся, у іх ліку кравецкае, шавецкае, шапавальнае, аўчыннае, кавальскае, выраб шкла, цэглы, кафлі, а з дрэваапрацоўчых — сталярнае і цяслярнае. Прыкметна змяніліся сацыяльны характар Р. і п., іх сувязь з рынкам збыту, узаемаадносіны гарадскога і сельскага рамяства, рамяства і буйной прамысловасці. Мноства рамесных вырабаў прызначалася заказчыкам ці прадавалася на рынку. Вытворчасць на заказ пераважала ў такіх рамёствах, як шавецкае, кравецкае, шапавальнае, аўчыннае, рымарскае, кавальскае, сталярнае, што перш за ўсё звязана з індывідуальнымі запатрабаваннямі і густамі. Майстры адзначаных прафесій часцей за ўсё працавалі на сыравіне заказчыка. У ганчарстве, бондарстве, стальмашнай і такарнай справе, вырабе кошыкаў, сіт, рэшатаў, грабянёў, бёрдаў і інш. пераважала вытворчасць на рынак. Нярэдка на шляху саматужніка і пакуп-

ніка паяўляюся скупшчык, які скуплях у майстра дома ці на кірмашы партыі рамесных вырабаў — ганчарнага і бандарнага посуду, колаў, верацёнаў, бёрдаў і інш. Пераважная большасць прамысловых вырабаў ішла на ўласныя патрэбы. У першыя дзесяцігоддзі 20 ст. сяляне ў вялікай колькасці ткалі для сябе ільняныя і шарсцяныя тканіны, посцілкі, ручнікі, абрусы, шылі бялізну, андаракі, фартухі, курты, світкі, рабілі паўсядзённы абутак з лыка і скуры, вязалі панчохі, рукавіцы і інш. Амаль кожны селянін майстраваў для сябе саху, барану, драўляныя вілы, граблі, лапаты, выдзеўбаны посуд, будаваў з удзелам аднавяскоўцаў жыллё і гаспадарчыя пабудовы. Нярэдка больш паловы жыхароў вёскі складалі родзічы і сваякі, парадпёныя праз кумаўство, што прыкметна ўплывала на характар суседскіх сувязей, грамадскі падзел працы, узаемаадносіны майстра-саматужніка і спажыўца. Сельскія майстры нярэдка задавальнялі патрэбы аднавяскоўцаў у розных рамесных вырабах на прынцыпах эквівалентнага натуральнага абмену, узаемных паслуг, адпрацовак ці проста задарма («за дзякуй») у знак добрых адносін. Пераважная большасць Р. і п. засноўвалася на мужчынскай працы. Жаночая праца пераважала ў апрацоўцы льну, пянькі і воўны, ткацтве, вышыўцы, хатняй вытворчасці адзення, кулінарнай справе. Жанчыны і дзеці дапамагалі і ў сямейным падрадзе пры вырабе ганчарнага посуду, апрацоўцы скур і аўчыны, пляценні рыбацкіх сетак. Арганічна звязаныя з земляробствам і жывёлагадоўляй, Р. і п. беларусаў былі зарыентаваны на асенне-зімова-вясенні сезон, свабодны ад с.-г. работ. Летам і ўвосень сяляне збіралі ягады, грыбы, лекавыя травы, нарыхтоўвалі лыка для лапцей, займаліся пчалярствам і рыбалоўствам. Некаторыя кавалі, ганчары, шаўцы, гарбары працавалі круглы год.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі саматужна-рамесная вытворчасць разглядалася як адна з форм пераходу да сацыялістычнай прамысловасці, што знаходзіла сваё ўвасабленне ў прамысловай кааперацыі. Развіццё сельскіх промыслаў садзейнічала рацыянальнаму размеркаванню на працягу года працоўных рэсурсаў, больш поўнаму выкарыстанню таннай мясцовай сыравіны і адходаў сельскай гаспадаркі. У сферы грамадскай вытворчасці развіццё буйной прамысловасці гістарычна заканамерна адцясніла Р. і п. на другараднае месца. Аднак яны не зніклі, эканамічна апраўданы як падсобны промысел, як спецыялізаваная дзейнасць майстроў. Асваенне лепшых традыцый нар. рамяства ў наш час з'яўляецца адным з асноўных кірункаў у развіцці мясцовай прамысловасці. Р. і п. жывуць як нар. мастацтва, як майстэрства ўмельцаў, захаваліся ў *народных мастацкіх промыслах* і сталі неад'емнай часткай сучаснай бел. культуры. Рукатворныя вырабы ўмельцаў і таленавітых нар. майстроў вызначаюцца непасрэднасцю, непаўторнай самабытнасцю, тонкім адчуваннем матэрыялу і эстэтычным густам і заўсёды былі крыніцай творчасці, адкуль чэрпала сваю сілу бел. прафесійная мастацтва.

*В. С. Цітоў.*



**Раскаты.** Вёска Савы Горацкага раёна. 1924.

**РАМО́ВЫ ВУ́ЛЕЙ,** разборны вулей з рухомымі гнездавымі і магазіннымі рамкамі. Лакальныя назвы рамковік, рамовачнік, рамчак. Яго папярэднікі — неразборны дашчаны вулей з надстаўкай і т. зв. «кніжны вулей» з 12 зашклёнымі з абодвух бакоў драўлянымі рамкамі (вынайдзены ў 1789 Ф. Губерам). Першы разборны Р. в. сканструяваны ў 1814. Пашырэння ён не атрымаў, аднак яго прынцып (рухомасць сотаў у рамцы) даў пачатак далейшаму ўдасканаленню Р. в. Вядома мноства мадыфікацый Р. в. На Беларусі яны (розныя по форме, памерах, канструкцыі) на этапе станаўлення рацыянальнага пчалярства выкарыстоўваліся гал. чынам як пробныя экземпляры. Іх інтэнсіўнаму пашырэнню садзейнічалі пчалярскія таварыствы і выстаўкі, якія з 1896 праводзіліся ў Магілёве, Мінску і інш. гарадах Беларусі, а ў пач. 20 ст. і бел. выдавецкія таварыствы, што друкавалі на бел. мове кніжкі па пчалярству: «Як рабіць добрыя рамавыя вуллі» Сempaлоўскага, 1910, «Пчаліна — жывёлка малая, а карысці дае многа» Г. Бярозкі, 1911, «Пчалярства» А. Вілецкага, 1914. У 1913 колькасць Р. в. у бел. губернях складала 11%, у 1925—36 %; да 1938 у асноўным быў завершаны пераход на рамачнае пчалярства. Найбольш пашыраны: аднасценны 2-корпусны вулей (на 12 рамак памерам 435×230 мм), аднасценны шматкорпусны (з 3—4 корпусаў па 10 рамак памерам 435×230 мм у кожным); аднасценны вулей-ляжак (па 20—24 рамкі памерам 435×300 мм). Бел. шматкорпусны вулей на 16 рамак адзначаны бронзавым медалём на Міжнар. кангрэсе ў Маскве. Вартасць шматкорпуснага вулля ў тым, што ў ім ёсць магчымасць сачыць за развіццём пчалінай сям'і, своечасова і хутка пашыраць гняздо, што неабходна для назапашвання мёду і вырошчвання расплоду. Сучасны Р. в. складаецца з аднаго або некалькіх карпусоў, аднаго і больш магазінаў, высоўнага дна, аднаці двухсхільнай стрэшкі (века), падстрэшніка, прылётнай дошкі (лётная дошка, масткі), разборнай столі з асобных сталяніц (дошчачак), уцяплення (палатно, падушкі), адной або некалькіх устаўных дошак. Для вылету пчол і вентыляцыі вулля прарэзваецца лятOK.

*С. Ф. Цярохін.*

**РАСКА́ТЫ,** чатырохколавы воз без кузава для перавозкі лесу. Рэгіянальныя назвы роспускі, расцяжнік, багулы, дронкі. Пярэднія і заднія ходы з нізкімі падушкамі злучаліся рухома дышлем, на канцы восі задняга ходу насаджваліся дугі-жэрдкі (багулы, палонікі), скрыжаваныя паміж сабой канцамі. Пры пагрузцы лесу Р. разводзілі на патрэбную адлегласць па даўжыні бярвён, багулы клалі паверх бярвён, яны служылі для трываласці ўкладкі і рэгулявання ходу на паваротах і ўхабах. У сялянскай гаспадарцы Р. шырока бытавалі ў канцы 19— пач. 20 ст., пераважна на У Беларусі. Лес перавозілі і на звычайных калёсах; пры гэтым перадок адчэплівалі і зверху на яго праз шворань замацоўвалі спецыяльную падушку з кароткім дышлем (лісіца, крыж, дзядок), на лісіцу грузілі лес камлёвай часткай, пад больш тонкія канцы падводзілі задок і замацоўвалі вяроўкамі. У зах. і цэнтр. раёнах Беларусі замест Р. ці побач з імі пры перавозцы лесу выкарыстоўвалі *мажары*, якія захаваліся да нашага часу.

*В. С. Цітоў.*

**РАССЯЛЕ́ННЕ НАСЕ́ЛЬНІЦТВА,** гістарычны працэс размеркавання і пераразмеркавання насельніцтва па тэрыторыі і вынік гэтага працэсу; пад Р. н. разумеюць таксама сістэму пасяленняў як вынік лакалізацыі насель-

ніцтва ў пэўных месцах тэрыторыі. У выніку Р. н. па тэрыторыі частка пэўнага этнасу выходзіць за межы яго этнічнага арэала (для беларусаў этнічны арэал практычна супадае з тэр. Беларускай ССР). Пра рассяленне бел. этнасу гл. ў арт. *Беларусы, Насельніцтва, Этнічная тэрыторыя.*

**«РАСТРАПА́ДКА»**, імправізаваны сольны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Назва паходзіць ад слоў «растрапацца», «трапаць». Пэўнага малюнка ў танцы не было: кожны выканаўца імправізаваў пад музыку, паказваючы свае здольнасці. Часта танец суправаджаўся прыпеўкамі. Зафіксаваны ў паўн.-зах. рэгіёнах Беларусі.

**«РАСХО́ЖАЯ»**, імправізаваны танец. Называлі таксама «Расхадная». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Танцавалі па двое, часцей — дзяўчаты. Выканаўцы сыходзіліся да сярэдзіны пляцоўкі, потым разыходзіліся на свае месцы (адсюль і назва танца). Асноўны крок — падскокі на месцы і ў павароце, просты крок у спалучэнні з дробным. Часам выканаўцы ўключалі ў танец прысядкі. Ёсць меркаванні, што танец атрымаў такую назву таму, што пасля яго разыходзіліся дадому. Танец зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Віцебскай і Магілёўскай абласцях.

*С. У. Клімовіч.*

**РА́СЫ** ч а л а в е к а, групы людзей, што склаліся гістарычна і маюць падобныя спадчынныя вонкавыя (цялесныя) адзнакі — колер скуры, валасоў і вачэй, формы носа і губ, рост і прапорцыі цела і інш., а таксама некаторыя «схаваныя» адзнакі — група крыві і інш. Арэалы распаўсюджання розных адзнак не супадаюць, таму расавыя межы невыразныя і ўмоўныя. Выдзяляюць 4 вялікія Р.: еўрапеоідную, негроідную, аўсцралоідную, мангалоідную, а ўнутры іх — малыя Р. Асобнае месца займаюць прамежкавыя (паміж Р.) формы і змешаныя (метысы) групы новага часу. Паміж Р. не існуе марфалагічных, фізіялагічных, псіхалагічных адрозненняў. Поўная біялагічная і сацыяльна-культурная паўнацэннасць усіх Р. і метысных груп сведчыць пра відавое адзінства чалавецтва і абвяргае антынавуковыя расісцкія канцэпцыі пра «вышэйшыя» і «ніжэйшыя» Р. Расавы склад народаў — вынік гіст. развіцця, на якое біялагічныя, расавыя асаблівасці не маглі ўплываць. Працэсам расаўтварэння спрыялі ізаляцыя пэўных груп людзей з-за прыродных умоў ці сацыяльных бар'ераў, міграцыя і кантакты прадстаўнікоў розных Р. Біялагічныя асаблівасці прадстаўнікоў любой Р. не ўплываюць на неабмежаваныя магчымасці для культурнага развіцця пры спрыяльных сацыяльна-эканам. умовах. Беларусы належаць да ўсх.-еўрапейскага тыпу сярэднееўрапейскай Р. (у межах вялікай еўрапеоіднай Р.). Гл. таксама арт. *Антрапалагічныя тыпы.*

*І. І. Саліван.*

**РА́ЎБІЦКІ МУЗЕ́Й БЕЛАРУ́СКАГА НАРО́ДНАГА МАСТА́ЦТВА**, аддзел *Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.* Адкрыты 12.12.1979 у в. Раўбічы Мінскага р-на ў будынку б. касцёла. Плошча экспазіцыі і выставачнай залы 400 м². У музеі каля 600 экспанатаў (1988), якія даюць уяўленне пра асаблівасці развіцця нар. мастацтва Беларусі ў мінулым і знаёмяць з творамі сучасных бел. майстроў. Экспануюцца разны драўляны посуд 16—20 ст., драўляная скульптура і вырабы з саломы і лазы 18—20 ст., бел. нар. жаночы касцюм канца 19 — пач. 20 ст. (верхняе адзенне, святочнае ўбранства) розных гісторыка-этнагр. рэгіёнаў, камянецкія прасвіцы канца 19 ст. Прадстаўлены ўзоры мотальскіх, неглюбскіх, краснапольскіх, пінска-івацэвіцкіх ручнікоў, благаўскай, дубровенскай, івянецкай, крычаўскай, пружанскай керамікі, тканыя дываны і посцілкі з розных абласцей Беларусі, паясы. Сярод твораў сучасных бел. майстроў работы самадзейных скульптараў-разьбяроў па дрэве А. Ф. Пупко, В. В. Альшэўскага, К. К. Казелкі і інш., вырабы з саломы К. Г. Арцёменкі, В. І. Гаўрылюк, Л. Р. Главацкай, Т. П. Агафоненкі, Г. У. і Я. П. Саламянкаў і інш., узоры майстроў Жлобінскай фабрыкі інкрустацыі В. Н. і М. В. Дзехцярэнкаў і інш. Перыядычна музей наладжвае выстаўкі па матэрыялах экспедыцый, абменныя выстаўкі з рэспублікамі СССР.





Фрагменты экспазіцыі **Раўбіцкага музея беларускага народнага мастацтва.**

**РАЎГЕ́НЯ**, кісла-салодкая рэдкая мучная страва. Жытнюю муку размешвалі халоднай вадой, ставілі ў печ парыцца і саладжаць, потым вылівалі ў хлебную дзежку, каб укісала. Калі Р. ўкісне (кажуць яшчэ «паходзіць»), яе ядуць. Вядома на ПнЗ Беларусі. У Мядзельскім, Браслаўскім р-нах Р. рабілі зусім рэдкай і пілі, як квас. Часам на Р. рашчынялі хлеб.

**РАЧНЫ́ ТРА́НСПАРТ**, від транспарту для перавозак пасажыраў і грузаў па ўнутраных водных шляхах. З глыбокай старажытнасці рэкі былі найб. зручным і танным шляхам зносін і перавозкі грузаў. Густая рачная сетка тэр. Беларусі спрыяла развіццю Р. т. Сродкамі транспарціроўкі служылі *плыты* і розныя *судны.* Невялікія судны вядомы з эпохі неаліту, пра што сведчыць знаходка ў Лагойскім р-не чаўна, выдзеўбанага са ствала дрэва. У 9—11 ст. усх. славяне вялі ажыўлены гандаль з Візантыяй па Дняпру, шлях «з варагаў у грэкі» праходзіў па Дняпру і Зах. Дзвіне. З 11—12 ст. пашырыліся гандлёвыя сувязі славян з Зах. Еўропай па Зах. Дзвіне, Нёмане, Бугу. Пасля далучэння зямель Беларусі да Расіі ў канцы 18 ст. рынкамі збыту тавараў, акрамя Рыгі і Круляўца (Кёнігсберг), сталі Мемель (Клайпеда) і Данцыг (Гданьск). З далучэннем Крыма ажывілася суднаходства па Дняпры. Рост грузавых перавозак з канца 18 ст. абумовіў будаўніцтва штучных водных шляхоў — каналаў Агінскага (1767—83), Дняпроўска-Бугскага (1775—1848), Аўгустоўскага (1824—39), Бярэзінскай воднай сістэмы (1797—1805) і інш.

Самыя стараж. судны ўсх. славян — *лодка, ладдзя, човен, струг.* На лодках-аднадрэўках яны яшчэ ў 7 ст. хадзілі ў Візантыю; на ладдзях у 9—10 ст. плавалі па Дняпру. Гісторык А. Сапуноў адначаў, што ў сярэдзіне 13 ст. па Зах. Дзвіне і Касплі хадзілі дашчаныя

ўчаны, з пач. 15 ст. на Нёмане, Шчары, Віліі вядомы *віціны*. Павелічэнне грузавых перавозак у канцы 16—17 ст. абумовіла будаўніцтва рачных суднаў большага танажу — *байдакоў*, *шкудкаў*, *барак*. З 1840—50-х г. байдак і віціну паступова выцесніла больш трывалая і зручная *берліна*, якая ў 1880-я г. была самай шматлікай групай суднаў на Беларусі. Вядомая з 15 ст. на Зах. Дзвіне і Віліі лёгкая і ўстойлівая лодка — *лайба* — удасканальвалася, павялічвалася ў памерах і з сярэдзіны 19 ст. выцесніла інш. судны ў гэтым рэгіёне. У 1880—90-я г. лайбы ў бас. Зах. Дзвіны складалі каля 63 % усіх суднаў. Паводле Сапунова, шкуты і чаўны перасталі існаваць з 1840-х г., а сплаў стругаў з Віцебска, Полацка і Веліжа спыніўся ў 1880-я г.; з Белага і Парэчча Смаленскай губ.— у пач. 20 ст. Барка на рэках Беларусі дажыла да пач. 20 ст. У канцы 19 ст. на буйных рэках пачалі ўжываць *баржу*. Традыцыйныя бел. рачныя судны мелі рэгіянальнае пашырэнне. Так, струг, шкут, лайбу будавалі на Зах. Дзвіне, віціну, бат — на Нёмане і Шчары, байдак, берліну, барку, лыжву — у бас. Дняпра і Прыпяці, дубас, бат, галеру, шкут, лыжву — на Зах. Бугу, галяру (гіляру), люз, ганчак — на Дняпры. Судны былі хадавыя (хадзілі па рэках уніз і ўверх) і сплаўныя (будавалі на 1 рэйс уніз па цячэнню). Пераважалі хадавыя, сплаўнымі былі толькі барка, струг і люз. Для мясцовых перавозак грузаў і людзей, рыбнай лоўлі, палявання, плытагонства карысталіся лодкамі выдзеўбанымі (човен, камяга, дуб, шугалея) і дашчанымі, што былі пашыраны ў 2-й пал. 19 ст. З сярэдніх вякоў вядома спецыфічнае грузапасажырскае судна *паром* (перавоз).

Бытавала некалькі традыц. спосабаў перамяшчэння суднаў: на вёслах, шастах і ветразях, а супраць цячэння, акрамя таго,— з дапамогай людской цягі (*лінай*) і завозам *якара* (падачай). Пры спадарожным ветры і прамым, без крутых паваротаў рэчышчы карысталіся ветразем. На ветразях уніз па рацэ судна магло прайсці каля 70 вёрст за дзень. На мелкаводдзі пры адсутнасці спадарожнага ветру яно ішло на шастах (ялінах, яллях, бусаках): рабочыя ўпіраліся ў дно ракі канцом шаста з жалезным цаканечнікам, налягаючы грудзьмі на вярхні канец з драўлянай падушкай. За дзень на шастах судна праходзіла 6—15 вёрст, прыкладна такая ж скорасць была і на вёслах.

Суднаходства і суднабудаванне — стараж. занятак насельніцтва Беларусі. Жыхары прырэчных паселішчаў будавалі судны на прыстанях, берагах рэк і азёр. Да канца 18 ст. гэты занятак меў характар нар. промыслу. У 1785 на р. Сож у Крычаве пабудавана верф, у 1860-х г. заснаваны Пінскі суднабудаўнічы з-д, а ў 1900—03 — суднарамонтныя майстэрні ў Віцебску і Гомелі. Тэхнічныя, канструкцыйныя прыёмы суднабудавання бяруць пачатак у 9—12 ст. Спачатку судны выдзёўбвалі са ствала дрэва, пазней пачалі рабіць дашчаныя. З 16 ст. гэты тып — пануючы ў Р. т. Будавалі судны з дубу, сасны, елкі, асіны. Прылады працы і прыстасаванні — сякера, піла, цясла, долата, свердзел, клямары. З 18 ст. ўжывалі пілаваныя дошкі замест колатых. У дашчаных суднах днішча і барты прымацоўвалі з дапамогай драўляных (пагслі) і металічных цвікоў, заклёпак, прабояў, скоб і выкарыстоўвалі для



Рогі.



Кларнетавы ражок.

гэтага какоры (копані, кручча) — абчэсаныя бярвёны з крывым карэнішчам, якія абшывалі дошкамі. Шпары канапацілі мачалай, мохам, пяцькой, пакуллем, потым прыкрывалі вузкай дранкай (ластай) і замацоўвалі жалезнымі скобамі. Дно і бакі смалілі варанай смалой (варам, пікам). Для кіравання суднам на карме і носе мацавалі рулявыя вёслы — доўгія бярвёны з лопасцямі; на барцы яны наз. пацэсь, на стрyзе і байдаку — кармавое вясло-сцярно, насавое вясло на стрyзе — дрыгалка, на байдаку — трапло. З улікам асаблівасцей мясц. рэк судны будавалі пераважна пласкадонныя, лёгкія, з невял. асадкай, памеры іх залежалі ад шырыні фарватэра.

Найвышэйшага развіцця суднаходства па Беларусі дасягнула ў канцы 18 — 1-й пал. 19 ст. Па рэках Гродзенскай губ., напр., у 1849—53 штогод хадзіла ад 1230 да 2266 суднаў і 1338—3900 плытоў; рабочых на іх было занята 14—28 тыс., у т. л. каля $^3/_5$ на суднах і $^2/_5$ на плытах. У 1830-я г. агульная колькасць рабочых у суднаходстве на Нёмане, Зах. Дзвіне, Дняпры і іх прытоках складала каля 300 тыс. чал. (29 % суднарабочых Расіі). Пашырэнне чыгуначных перавозак у 2-й пал. 19 ст. прывяло да змяншэння ролі Р. т. і паступовага заняпаду нар. промыслу па вырабу традыцыйных суднаў. У гэты перыяд на бел. рэках паявіліся параходы, колькасць якіх з цягам часу павялічвалася.

У БССР будаўніцтва суднаў ажыццяўляецца на індустрыяльнай аснове. Выкарыстоўваюцца лепшыя прыёмы нар. рамяства. З традыцыйных тыпаў суднаў захаваліся ўдасканаленыя баржа і лодкі, пераважна дашчаныя. На буйных рэках выкарыстоўваюць паром, істотна зменены: замест ранейшых лодак (дубоў) плывучай апорай служаць метал. пантоны. Самаходны паром, якім кіравалі з дапамогай шастоў, вёслаў, каната (троса), саступіў месца парому з буксірам ці кацерам. Суднабудаўнічыя прадпрыемствы рэспублікі: Гомельскі і Пінскі суднабудаўніча-суднарамонтныя з-ды, Бабруйскі суднарамонтны з-д, Віцебская і Петрыкаўская суднарамонтныя майстэрні, Рэчыцкая суднаверф. На рэках Беларусі эксплуатуюцца пасажырскія судны на падводных крылах, грузавыя і буксірныя цеплаходы, несамаходныя баржы. *Н. І. Буракоўская.*



Язычковы рог.

**РАШЭЦІНЫ**, жэрдкі, да якіх мацуецца пакрыццё *страхі*; тое, што і *латы*.

**РОГ**, старажытны народны духавы музычны інструмент. На Беларусі вядомы як амбушурны, так і язычковы Р. Амбушурны Р. мае памеры 30—50 см; вырабляюць яго з рога жывёлы (каровы, быка, барана), з дрэва (кавалка ствала бярозы, алешыны, клёну па форме блізкім да рога жывёлы) і з бляхі. У вузкім канцы Р.— муштук — спецыяльнае паглыбленне для губ. Ігравыя адтуліны адсутнічаюць. Гучанне інструмента яркае і моцнае. Спрадвеку Р. выкарыстоўвалі для падачы паляўнічых, пастухоўскіх, паштовых і

нават ваенных сігналаў. У наш час Р. захоўваецца ў побыце пастухоў і паляўнічых Палесся, якія выконваюць на ім сігналы, а найбольш спрактыкаваныя — простыя песенныя і танцавальныя мелодыі. Апошнія іграюць звычайна «для сябе», для асабістага задавальнення і забавы. Язычковы Р. мае дзве разнавіднасці. Першая — рог каровы, у вузкі канец якога ўстаўлены *пішчык* — гусінае пяро з надрэзаным язычком. Гучанне такога Р. моцнае, крыху гугнявае і пранізлівае. Інструмент зафіксаваны на Навагрудчыне. На ім пастухі ўзнаўляюць кароткія сігналы імправізацыйнага характару. Другая разнавіднасць — язычковы Р., які таксама вырабляюць з рога жывёлы, а да муштука прамавугольнай формы прывязваюць тонкую гуму так, каб паміж адным яе краем і даўжэйшым бокам муштука ўтваралася шчылінка. Пры ігры гума хістаецца, і ўзнікае яркі, добра чутны на значнай адлегласці гук. Такім Р. карыстаюцца паляўнічыя ў Калінкавіцкім р-не. Пра паляўнічы Р., яго то радасны, то сумны, то бадзёры спеў, які «абуджаў страсці і пачуцці», гаворыцца ў паэме 16 ст. «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага і ў рамане «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча. Пра чароўную сілу Р. расказваецца ў нар. казках («З рога ўсяго многа»).

*І. Дз. Назіна.*

**РОД**, калектыў кроўных родзічаў, якія вялі сваё паходжанне па адной лініі (мацярынскай або бацькоўскай), у большасці выпадкаў усведамлялі сябе патомкамі агульнага продка (рэальнага ці міфічнага) і мелі агульнае родавае імя (часцей за ўсё ім была назва якойнебудзь жывёлы ці птушкі, напр., Мядзведзь, Воўк, Бабёр, Кулік, Чапля, Ястраб і інш.). Р. узнік на мяжы ніжняга і верхняга палеаліту, прыкладна 40 тыс. гадоў таму назад. На Беларусі Р. існаваў амаль да канца жалезнага веку. Быў асноўнай сацыяльнай арганізацыяй абшчынна-родавага грамадства. Найважнейшыя рысы Р.: калектыўная (родавая) уласнасць на сродкі вытворчасці, у прыватнасці на зямлю і інш. маёмасць, сацыяльная роўнасць яго членаў, супрацоўніцтва, узаемадапамога і дружба паміж імі, узаемная абарона, самакіраванне. Асноўныя пытанні грамадскага жыцця вырашаў сход дарослых членаў Р. Ён выбіраў родавага старэйшыну, які ўплываў на родзічаў выключна сваім аўтарытэтам. Сродкі прымусу ў кіраванні не выкарыстоўваліся. Важнай функцыяй Р. было рэгуляванне шлюбных адносін. Паколькі заключэнне шлюбу ўнутры Р. забаранялася, ён быў звязаны шлюбнымі адносінамі з інш. Р., якія разам з ім складалі адно *племя*. Р. аднаго племені размаўлялі на адной мове, мелі агульнае племянное імя. Часам адрозніваліся рэлігійнымі вераваннямі. У кожнага Р. быў свой татэм — жывёла ці птушка, імем якой ён называўся і якой пакланяўся. Членам Р. забаранялася паляваць на сваю татэмную жывёлу. У кожнага Р. было родавае свята (спраўлялася ў гонар татэма), родавы татэмістычны цэнтр — месца, дзе захоўваліся свяшчэнныя родавыя рэчы (гл. *Татэмізм*). Група родзічаў складала ядро родавай *абшчыны*, якая вяла калектыўную гаспадарку. Мікраячэйкамі родавай абшчыны былі парныя сем'і. Муж і жонка ў гэтых сем'ях адносіліся да розных родаў. Заключаючы шлюб, частка членаў Р. (мужчыны або жанчыны) пераходзіла ў іншыя родавыя абшчыны.

Знік Р. на позняй стадыі першабытнаабшчыннай фармацыі ў выніку грамадскага падзелу працы, з'яўлення прыватнай (сямейнай) гаспадаркі і прыватнай уласнасці, маёмаснай і сацыяльнай дыферэнцыяцыі, узнікнення класаў і стварэння дзяржавы. Родавая арганізацыя зрабіла значны ўплыў на побыт і духоўную культуру (рэлігійныя вераванні, міфалогію, фальклор) стараж. чалавека. Некаторыя сляды родавай арганізацыі захаваліся ў побыце і духоўнай культуры многіх этнасаў на стадыі класавага грамадства. У беларусаў сляды родавай арганізацыі захоўваліся пераважна ў традыцыйнай вясельнай абраднасці (падзел вясельнай групы на старэйшых — сватоў і сваццяў, з аднаго боку, і малодшых — дружкаў і дружак, з другога; групавы характар вясельных чыноў; забарона членам адной вясельнай групы заключаць паміж сабою шлюб і інш., абрадавыя назвы «сват», «сваццця» першапачаткова азначалі членаў роду). Р. называюць таксама рад пакаленняў, якія паходзяць ад аднаго продка.

*М. Ф. Піліпенка.*

**РО́ДНАСЦЬ І СВАЯ́ЦТВА**, адносіны паміж людзьмі, заснаваныя на паходжанні ад агульнага продка (роднасць) або якія ўзнікаюць у мужа і жонкі да іх родных (сваяцтва). Кроўнародныя адносіны ў першабытным грамадстве былі асновай аб'яднання людзей у *род*, фратрыю, *племя*, яны характарызавалі формы сям'і. У сучасных сямейных адносінах адрозніваюць роднасць па лініях: прамой (бацькі і дзеці, продкі і нашчадкі), бакавой (браты і сёстры, дзядзькі, цёткі і пляменнікі), узыходнай (ад нашчадкаў да продкаў — напр., унук, сын, бацька, дзед), сыходнай (ад продкаў да нашчадкаў). Бел. назвы кроўнай роднасці па прамой лініі: 1-й ступені — бацька (тата), маці (матка, мама), сын, дачка (пазашлюбных дзяцей называлі *бастрамі*); няпоўнай роднасці паміж мужам (жонкаю) і дзецьмі ад папярэдняга шлюбу жонкі (мужа) — айчым, мачаха, пасынак, падчарыца; няпоўнай роднасці паміж дзецьмі — брат (сястра) па бацьку ці па маці; усынаўлення — выхаванец, выхаванка (у гаворках — гадаванец, гадаванка, дольнік, дольніца); дзеці мачахі і айчыма лічыліся зводнымі братам і сястрой; 2-й ступені — дзед, баба, унук, унучка; 3-й ступені — прадзед, прабаба, праўнук, праўнучка; 4-й ступені — прапрадзед, прапрабаба, прапраўнук, прапраўнучка (гэтыя формы ўжываюцца вельмі рэдка і найчасцей замяняюцца апісальна). Далейшыя ступені кроўнай роднасці называюцца агульна: па ўзыходнай лініі — продкі, дзяды, дзядыпрадзеды, па сыходнай — нашчадкі (патомкі). Назвы роднасці 1-й бакавой лініі: брат, сястра, пляменнік, пляменніца. У гаворках са значэннем «пляменнік» трапляюцца нябож, часам — сыновец; са значэннем «пляменніца» — нябога. Назвы роднасці 2-й бакавой лініі: дзядзька, цётка, дваюрадны (стрыечны) брат, дваюрадная (стрыечная) сястра. У гаворках да назваў дваюраднага брата (сястры) вядомы сінонімы стрэчны, стрыечны, стрэнні, брацелік, брацеліца, сеструха, сеструнка і інш. Назвы 3-й і наступных ліній ужываюцца радзей і звычайна перадаюцца апісальна. Назвы сваяцтва: муж, жонка, у гаворках таксама стары (старая), дзед (баба), гаспадар (гаспадыня); да слова муж сінонімы мужык, чалавек, да слова жонка — маладзіца, дружына, жанчына і інш. Даччын муж — зяць; сынава жонка — нявестка (у гаворках таксама — сынавая, сыновая). Мужавы бацькі — свёкар, свякроў (свякруха, свекрыва), жончыны — цешча і цесць; мужаў брат — дзевер, сястра — залвіца (залоўка, залувіца, завіца). Слова швагер выражае 3 паняцці: сястрын муж, жончын брат, муж жончынай сястры; швагерка — жончына сястра. Братава жонка — братавая (у гаворках — братіха), братавы паміж сабой — ятроўкі; дзядзькава жонка — дзядзіна (цётка). Бацькі мужа і жонкі адзін да аднаго — сваты, мацеры — сваццці (свахі). У гаворках усе родныя мужа — сваты і сваццці ў адносінах да ўсіх родных жонкі і наадварот. Асобна стаяць хросныя бацькі, хросная матка, хросныя дзеці — хроснік (хрэснік), хросніца (хрэсніца), а таксама назвы кум і кума. Усе яны звязаны з царкоўным абрадам хрышчэння. Апрача канкрэтных, ёсць агульныя назвы Р. і с.: радня, родзічы, сваякі, свае, у гаворках таксама радзіна, прырода, сраство, свайство, адроддзе, род і інш.

*К. М. Панюціч.*

**РО́ЗВАЛЬНІ**, найбольш пашыраны від саней; тое, што і *развалкі*.

**РОЙ**, частка маладых пчол, якія аддзяляюцца ад старой матчынай сям'і. Кожны Р. складаецца з маткі, некалькіх сотняў трутняў і дзесяткаў тысяч рабочых пчол. Вага Р. ад 0,5 да 6 кг. У час раення з аднаго вулея можа выдзеліцца некалькі Р.: па чарговасці вылету іх называюць першаком (найбольш моцны), другаком, трацяком і інш. Пакінуўшы вулей, Р. адразу далёка не ляціць, а прывіваецца на пасецы ці паблізу яе на дрэвах або *прывоях*. Ва ўсе напрамкі ў пошуках новага гнязда разлятаюцца пчаліныя разведчыкі — скалі (скаллі, пошук), якія

знаходзяць прыдатнае месца для жыцця і вядуць туды ўвесь Р. Для лоўлі Р., якія пчаляр не паспеў згарнуць на пасецы, у наваколлі расстаўляюць на дрэвах *вабікі*. Як самастойная сям'я Р. пачынае існаваць з моманту асялення ў новым гняздзе. *С. Ф. Цярохін.*

**РО́ССЫП**, спосаб *лесасплаву* на невялікіх рэках; тое, што і *моль*.

**РО́ШВА**, група дэкаратыўна-злучальных швоў, якімі сшывалі полкі тканін і канструктыўныя дэталі адзення. Да найбольш стараж. швоў адносяцца размярэжка, расшыўка, касіца. Такімі швамі злучалі полкі абрусаў, фартухоў, палікі і рукавы жаночых кашуль. На Гомельшчыне традыцыйным швом для злучэння дэталей жаночых кашуль служыў даволі працаёмкі від Р.— т. зв. ігольныя карункі. Пэўнае, строга па схеме, чаргаванне квадрацікаў з шыўкоў і працягнутых паміж імі нітак стварала дробна-ўзорыстыя чырвона-чорна-белыя сеткавыя карункі. На Магілёўшчыне дзве полкі звычайна шчыльна сшывалі рэльефным швом. Шыўкі пэўнай даўжыні паслядоўна наносілі на абедзве полкі, утвараючы нескладаны геаметрычны ўзор. У пач. 20 ст. Р. паступова замянілі менш працаёмкія карункавыя прошвы, вязаныя кручком. *В. Я. Фадзеева.*





**Рошва** (расшыўка). Фрагмент абруса.

**Рошва** (размярэжка). Фрагмент абруса.

**РО́ШЧЫНА**, негустое цеста на заквасцы (пазней — на дражджах), замешвацца перад выпечкай. Называлі таксама рашчына. Р. звычайна ўчынялі на хлеб, у спецыяльнай хлебнай дзежцы, дзе ад папярэдняй выпечкі пакідалі трошкі цеста на закваску. Увечары закваску разводзілі цёплай вадой, дадавалі муку і размешвалі на негустое цеста — Р. Дзежку з ёю накрывалі і ставілі на ноч у цёплае месца, дзе Р. закісала і падыходзіла. Раніцай у яе падсыпалі мукі і густа замешвалі. На Смаргоншчыне, Лоеўшчыне Р. называлі і закваску на хлеб. Выкарыстоўвалі Р. таксама ў прыгатаванні розных страў: ёю заквашвалі і закалочвалі *поліўку*, падкісялялі *жур*, *саладуху*, *квас*. У Браслаўскім, Ганцавіцкім, Бярозаўскім р-нах з Р., развёўшы яе вадой, гатавалі рэдкую страву з такой самай назвай. *Г. Ф. Вештарт.*

**РУ́ДНІКІ**, майстры па выплаўцы жалеза з руды. На Беларусі вядомы з пачатку промыслу па выплаўцы жалеза з мясцовых балотных руд (7—6 ст. да н. э.). У першабытныя часы займаліся ўсімі працэсамі атрымання жалеза ў земляных печах. У феадальны перыяд Р. звычайна называліся кіраўнікі вытворчасці, майстры рудняй справы і арандатары *рудняў*, у якіх асноўнымі вытворчымі працэсамі займаліся рудакопы, плакары (прамыўшчыкі руды), дымары (плавільшчыкі жалеза) і інш. Для стварэння рудні Р. вызначалі месца залягання руды, яе колькасны і якасны склад, будавалі памяшканне, набывалі неабходныя інструменты і абсталяванне, кіравалі тэхнічнымі працэсамі. У сярэдзіне 19 ст. з развіццём прамысловасці і спыненнем саматужнай выплаўкі жалеза з балотных руд прафесія Р. перастала існаваць. *Я. М. Сахута.*



**Рошва** (расшыўка). Фрагмент кашулі.

**РУ́ДНЯ**, памяшканне для выплаўкі жалеза з руды. Прымітыўныя Р., якія мелі толькі печы-домніцы для выплаўкі жалеза з мясцовых балотных руд, на Беларусі вядомы з часоў развіцця феадальных адносін і бытавалі да 2-й пал. 19 ст. Будаваліся звычайна на месцы здабычы руды. У 16—19 ст. былі і буйныя, спецыяльна абсталяваныя Р. Вялікі драўляны будынак узводзіўся каля ракі, часта воддаль ад месца здабычы руды, і яе звозілі на Р. з наваколля. Р. мелі сырадутныя печы, кавальскія горны, скураныя (часам драўляныя) мяхі, вялікія (да 100 кг) механічныя молаты, а таксама кавадлы, малаткі, клешчы і інш. абсталяванне. Найбольш працаёмкія віды работ (надзіманне паветра, драбленне руды, перакоўка крыц) механізаваліся: мяхі і крычныя молаты прыводзіліся ў дзеянне 2—3 вадзянымі коламі. У комплексе з Р. былі ямы для выпальвання вугалю. Большасць Р. засноўвалася ўладальнікамі маёнткаў і аддавалася ў арэнду *руднікам*; працавалі на Р. звычайна мясцовыя сяляне. У склад работнікаў уваходзілі: руднік, дымар (плавільшчык жалеза), курач (выпальваў вугаль), рудакоп (нарыхтоўшчык руды), плакар (прамыўшчык руды), каваль. У 2-й пал. 19 ст. з развіццём прамысловасці Р. занепалі, некаторыя развіліся ў металаапрацоўчыя заводы. *Я. М. Сахута.*

**РУЖА́НСКАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы майстроў з г. п. Ружаны Пружанскага р-на. Найбольшага росквіту промысел дасягнуў у канцы 19 — 1-й пал. 20 ст. Асноўная частка ганчароў сялілася па Ганчарнай вуліцы. У 1930-я г. іх налічвалася каля 40. Выраблялі чорнаглянцаваны, а з 1920-х г.— паліваны гаспадарчы посуд: гаршкі, збанкі, міскі, вазоны, слоікі, цадзілкі, глякі, макатры, спарышы. Вырабы вызначаюцца выразным члянеennem цыліндрычных,канічных і шарападобных аб'ёмаў, формы іх на плечуках падкрэслены прамымі і хвалістымі выцiснутымі паяскамі, насечкамі па краях венчыкаў. Выраблялі таксама дзіцячыя цацкі-свістулькі ў выглядзе стылізаваных коннікаў, качак, сабак, бараноў і інш. з мяккай пластыкай форм. Калекцыі Р. к. ёсць у Дзярж. музеі БССР, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР. *Я. М. Сахута.*

**«РУКАВІ́ЦА»**, імправізаваны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. Выконваюць толькі дзяўчаты. Асноўны элемент танца — прысядкі, адначасова выканаўцы імітуюць рухі дрывасека: падымаюць злучаныя рукі ўгору і апускаюць іх на сагнутае калена. Танец суправаджаецца прыпеўкай, якая, магчыма, і дала яму назву: «Тапор, рукавіцы,//Жонка мужа не баіцца.//У нас новыя права,//Жонка мужа прадала». Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гарадоцкім р-не. У Віцебскім р-не зафіксаваны варыянт «Р.», які ў кампазіцыйным малюнку імітаваў вязанне рукавіцы. *А. Л. Варламаў.*

**РУКАВІ́ЦЫ**, элемент зімовага мужчынскага і жаночага адзення для аховы рук ад холаду. Шылі з аўчыны, сукна, вязалі з шарсцяных нітак з асобным размяшчэннем вялікага пальца. Сяляне пры гаспадарчых работах карысталіся пераважна суконнымі і аўчыннымі Р., а жыхары гарадоў і мястэчак — вязанымі. У 20 ст. атрымалі пашырэнне скураныя Р., а аўчынныя паступова зніклі. Шырока бытуюць і ў наш час.

**РУКАМЫ́Й**, ганчарны выраб; невялікая гліняная пасудзіна для ўмывання з цукатым тулавам, адным-двума трубчатымі носікамі і вушкамі па баках, да якіх прымацоўвалі вяроўку. Выраблялі паліваным. Бытаваў пераважна ў Паўн. і Цэнтр. Беларусі.

**РУ́ЛІ**, даўняя страва з кавалачкаў хлеба, пакрышаных у ваду або ў малако. Называлі таксама мурцоўка, цура,

цюпка. У астуджаную гатаваную ваду крышылі жытні хлеб, цыбулю, кроп, падсольвалі, запраўлялі алеем. У падсалоджаную ваду ці малако крышылі пшанічны або жытні хлеб, булку. Страва вядома на Беларусі паўсюдна. Пра тое, што Р. былі любімай стравай беларусаў, гавораць прымаўкі: «Рулі тры боханы згулі», «Рулі куліду згулі» і інш.

**РУМ**, прыстань на беразе ракі для складвання лесаматэрыялаў і падрыхтоўкі іх да сплаву. Лакальныя назвы біндзюга, біндуга. На Р. бярвенні акорвалі, прасушвалі і складвалі ў штабелі, а вясной звязвалі ў плыты.

**РУСА́ЛКА**, вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў. Яе ўяўлялі прыгожай дзяўчынай з доўгімі распушчанымі валасамі, якая жыла ў рэках, азёрах, лесе, полі. Паводле павер'яў, выварочвала сеткі, набівала іх цінай, вырывала вёслы, тапіла людзей у рэках і азёрах, затрымлівала жывёлу ў лесе і, разам з тым, вартавала жыта, калі яно каласілася, сачыла, каб ніхто не ламаў каласоў, не атрасаў расу. У асобных мясцовасцях (напр., на Гомельшчыне) летам дзяўчаты спраўлялі абрад «праводзін Р.» (гл. *Русальны тыдзень*). З саломы рабілі чучала Р., апраналі яго ў жаночае адзенне, на галаву клалі вянок. Увечары на высокім месцы вадзілі карагод, пасля заходу сонца ішлі да жытняга поля і кідалі чучала ў жыта. У гэтым абрадзе адлюстравалася ўяўленне пра тое, што Р. нібыта садзейнічала ўрадлівасці жытняга поля. Вобраз Р. страціў рэлігійнае значэнне ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. і захаваўся ў фальклоры (у былічках, русальных песнях) як паэтычны персанаж нар. мастацкай фантазіі. *М. Ф. Піліпенка.*

**РУСА́ЛІІ**, старажытнаславянскія абрадавыя ігрышчы, закліканыя забяспечыць павелічэнне ўраджайнасці. Звязаны з земляробчым календаром, аграрнай *магіяй*. Вытокі Р. — у даўніх язычніцкіх вераваннях славян, хаця сам тэрмін «Р.» вучоныя выводзяць ад лац. назвы антычнага свята руж (роз), звязанага з культам продкаў, — rosaria, rosalia, dies rosae. У розных народаў вядомы Р. зімовыя (паўд. славяне) і вясенне-летнія (усх. славяне). Апошнія звязаны з траецка-русальнымі і купальскімі (гл. *Купалле*) святамі і абрадамі. Усходне-славянскія Р. нясуць на сабе яскравыя адбіткі язычніцкіх уяўленняў, звязаных з міфалагічным вобразам русалкі — захавальніцы і падаўцы ўрадлівасці, аднаго з апекуноў пладаноснай зямлі і распарадчыкаў воднай стыхіі, што абумовіла лютыя нападкі на Р. з боку хрысціянскіх прапаведнікаў. Найбольш раннія сведчанні пра Р. адлюстраваны ў стараж.-рускіх павучаннях супраць язычніцкіх вераванняў. З гэтых павучанняў відаць характар Р., у якіх важнае месца займалі песні, скокі, музыка (сапелі, гуслі, трубы); царкоўнікі называюць іх «бясоўскімі пацехамі», «ідальскімі ігрышчамі». Кірыла Тураўскі далучаў Р. да ліку злых і благіх спраў. Пісьмовыя крыніцы называюць сэнс і мэту такіх ігрышчаў — маленне ў час засухі, выкліканне дажджу. Паводле сведчанняў археолагаў, аграрна-магічны характар Р. пацвярджаюць і адбіткі на рэчах, знойдзеных пры раскопках (Б. А. Рыбакоў). Вялікае месца ў Р. займаў культ расліннасці, культ прыроды. Яскравае ўяўленне пра старажытныя ўсх.-слав. Р. даюць абрады *русальнага тыдня*, якія шырока адлюстраваны ў этнагр. літаратуры і захаваліся да нашых дзён у жывым бытаванні. *Г. А. Барташэвіч.*

**РУСА́ЛЬНЫ ТЫ́ДЗЕНЬ**, наступны пасля *сёмухі* тыдзень, багаты на рытуальныя дзеянні і песні. Лакальная назва граны тыдзень; называюць таксама зялёным, клечальным. Мяжуе з этапам летняй абраднасці, часам асобнымі элементамі, а ў некаторых мясцовасцях (в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага р-на) амаль цалкам уключаны ў *купалле*. Звязаны з павер'ямі пра *русалак*. Абрады Р. т., асабліва русальныя песні, тэрытарыяльна абмежаваны. Эпіцэнтр іх бытавання — руска-беларуска-украінскае пагранічча.

**РУСАЛЬНЫ**

Супярэчлівыя ўяўленні пра русалак (іх знешні выгляд, месцазнаходжанне, функцыі, сутнасць) адбіліся на абрадавых дзеяннях Р. т. Найбольш пашыранае з іх — праводзіны русалкі. Русалка ў гэтым абрадзе ў розных мясцінах увасаблялася па-рознаму: пераапранутая дзяўчына, лялька (чучала), часам уяўлялі, што яна хаваецца ў жыце. Абавязковы атрыбут абраду — вянкі, якімі ўпрыгожвалі абраную русалку, усіх удзельнікаў рытуалу. Вянок для русалкі адрозніваўся ад іншых падборам раслін і кветак, памерамі, спосабам яго пляцення. Часам для русалкі плялі некалькі вянкоў, якія надзявалі ёй на галаву, шыю, рукі. Сакральны сэнс надаваўся травам, кветкам, з якіх дзяўчаты плялі вянкі для сябе і для русалкі. Нават у нашы дні, калі абрадавыя правілы не захоўваюцца строга, адметнасць вянкоў застаецца. У многіх мясцінах абавязковым было калектыўнае пляценне вялікага вянка для русалкі, што нагадвала агульную працу па вырабу ахоўнага палатна ў экстрэмальных умовах. Колькасць удзельніц пляцення таксама рэгламентавалася: 6 ці 12 дзяўчат. Вянкі адыгрывалі пладаносную магічную ролю, пра што сведчыць традыцыя разрываць іх або цэлымі закідваць на грады («каб расла капуста добрая»). У некаторых мясцінах русальны вянок спальвалі на вогнішчы. Тут, відаць, ён выконваў тую ж ролю, што і заменнік русалкі (саламяная лялька, чучала), які таксама часам спальвалі на агні. Кожнае абрадавае дзеянне Р. т. мела свой сэнс. Так, завіванне галінак дрэў (найперш бярозы), на якіх нібыта гайдаліся русалкі, паводле нар. уяўлення, павінна спрыяць ураджайнасці, як і завіванне вянкоў («На годы добрыя, на жыта густое, на ячмень каласістае...»). Кульмінацыя абраду праводзін русалкі — вывад яе з вёскі, часцей за ўсё ў жыта. Там яе пакідалі, а ўдзель-



**Ружанская кераміка.** Посуд.



**Ружанская кераміка.** Цацкі-свістулькі.

ніцы шэсця вярталіся назад як мага хутчэй, не азіраючыся, «каб русалка не дагнала». Перш чым вывесці ў жыта, русалку маглі весці на пагорак (улюбёнае месца амаль усіх веснавых рытуалаў), дзе разам з ёю вадзілі карагод. Выводзілі русалку абавязкова з традыцыйнымі абрадавымі песнямі, спяванне якіх адыгрывала магічную ролю.

Другое сакральнае месца, куды праводзілі русалак — могілкі. Такі варыянт праводзін русалкі мог узнікнуць толькі пасля прыняцця хрысціянства, бо па сцвярджанню вучоных (Л. Ленжэ), у славян-язычнікаў не было асобых месцаў для пахавання, могілкі ўведзены хрысціянствам. Перапляценне язычніцкіх уяўленняў і хрысціянскіх напластаванняў выяўляецца і ў рытуале вываду русалкі да крыжоў і спяванне каля іх русальных песень (Нараўлянскі р-н). Крыж (ахоўнік вёскі, за яго трэба было вывесці русалку), відаць, замяніў ранейшае скрыжаванне дарог, якому ў старажытнасці надаваўся магічны сэнс.

Паўднёвабеларускай разнавіднасцю абраду праводзін русалкі можна лічыць звычай, вядомы ў Добрушскім р-не. На свята, якое насіла агульны, калектыўны характар, збіраліся з розных вёсак. Адметнасць абраду надаваў абход русалкай (пераапранутая дзяўчына або нават хлопец, упрыгожаныя бярозавымі галінкамі) усіх двароў, што нагадвае іншыя веснавыя абходы, у першую чаргу *куст*. Пры вывадзе русалкі з жыта адбывалася сустрэча з русалкай суседняй вёскі і абменны разбор русальнай зеляніны, якую таксама неслі на свае агароды. У некаторых мясцінах звычай праводзіць русалку дайшоў да нашага часу. І хаця ў ім захоўваюцца часам архаічныя моманты, абрад нагадвае хутчэй гульню, якая выконваецца па традыцыі. Гл. таксама *Русаллі*. *Г. А. Барташэвіч.*

**РУСІ́НЫ** (ад лац. Rytheni), назва ўсходнеславянскага, у т. л. і беларускага, пераважна праваслаўнага насельніцтва ў эпоху сярэднявечча. У зах.-еўрапейскіх гіст. крыніцах 10—12 ст. (Гільдэсгеймскія, Магдэбургскія аналы, Жыція Адальберта, Атона Гамбергскага і інш.) ужываецца ў адносінах да паўд.- і паўн.-зах. груп насельніцтва Стараж. Русі (на памежжы з Польшчай і Прусіяй), усх.-слав. дружын і перасяленцаў з Германіі, Венгрыі і інш. Актывізацыя міжэтнічных кантактаў усх.-слав. і зах.-еўрапейскага насельніцтва ў 13—14 ст. садзейнічала распаўсюджанню назвы Р. на інш. усх.-слав. землях (перш за ўсё на Беларусі і Украіне), дзе яна ўжывалася ў якасці экзаэтноніма і існавала разам з мясцовымі аднакаранёвымі этнанімічнымі вызначэннямі русь, русічы, русы, руськія, рускія, русоькіе і інш. Пранікненне на землі Беларусі і Украіны каталіцтва і лац. мовы ў 13—16 ст. стабілізавала назву Р. ў якасці эндаэтноніма (напр., бел. першадрукар Ф. Скарына ў дакументах Падуанскага ун-та ад 1512 быў запісаны як Р.). Бел.-літоўскія летапісы, інш. гіст. крыніцы ўжываюць назву Р. для вызначэння праваслаўнага (з канца 16 ст. і уніяцкага) насельніцтва бел. і укр. (часам і літоўскага) паходжання. З канца 18 ст. назва Р. замянілася на землях Беларусі і большай часткі Украіны на рускія, руськія, беларусы, беларусцы, маларосы і інш., але працягвала існаваць у якасці лакальнага мікраэтноніма некаторых этнагр. груп зах. украінцаў і ўкраінамоўнага насельніцтва карпата-балканскага рэгіёна. *І. У. Чаквін.*

**«РУ́СКІ»**, імправізаваны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Танец прыйшоў з Расіі і ў асноўным захаваў рускую шырыню, манеру і характар выканання, аднак зазнаў прыкметны ўплыў бел. нар. харэаграфіі. У танцы выканаўца камбінуе разнастайныя каленцы ў залежнасці ад настрою і фантазіі. Хлопцы робяць розныя прысядкі, суправаджаючы іх плясканнем; дзяўчаты круцяцца, выбіваюць нагамі дробат і інш. У некаторых раёнах Віцебскай вобл. «Р.» танцавалі толькі дзяўчаты, якія выконвалі розныя дробныя крокі, кружэнні, а каб паказаць перад хлопцамі спрыт,— нават прысядкі. У Пружанскім р-не зафіксаваны варыянт «Р.», у якім хлопцы выконвалі элементы традыцыйнага бел. танца *«Жабка»*. «Р.» вядомы па ўсёй Беларусі, але найбольш пашыраны ў раёнах, сумежных з Расіяй. *Г. К. Каляда.*

**РУ́СКІЯ,** нацыя; адзін з буйнейшых этнасаў свету. Асноўнае насельніцтва РСФСР — 113,5 млн. чал. (83,3 %); усяго ў СССР 137,4 млн. (52,4 %, перапіс 1979). Гавораць на рускай мове. Разам з беларусамі і ўкраінцамі належаць да ўсх. славян. Пражываюць таксама і за мяжой (1,3 млн. чал., ЗША, Канада, Францыя і інш.).

Этнічна паходзяць ад усх.-слав. племянных аб'яднанняў, якія ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э. рассяляліся па Усх. Еўропе. Пачатковы этап этнагенезу Р. адносіцца да 12—13 ст.— перыяду распаду ўсх.-слав. этнакультурнага адзінства стараж.-рускай народнасці. Фарміраванне рускай народнасці ў 14—15 ст., абумоўленае сацыяльна-эканам. развіццём, звязана з барацьбой супраць мангола-татарскай няволі і ўтварэннем Рускай цэнтралізаванай дзяржавы. Да сярэдзіны 16 ст. скла́ліся асноўныя моўныя і культурныя асаблівасці рускага этнасу. У 2-й пал. 19 ст. сфарміравалася руская буржуазная нацыя. У ходзе сацыялістычных пераўтварэнняў Р. кансалідаваліся ў сацыялістычную нацыю.

Блізкасць гіст. лёсу, знаходжанне ў адзінай дзяржаве (з канца 18 ст.) абумовілі сталыя этнакультурныя сувязі беларусаў і Р. На Беларусі першыя групы Р. мігрантаў з'явіліся ў 15—16 ст. Частка з іх увайшла ў групу ваенаслужылых людзей — панцырных баяр, якія сяліліся вакол усх. мяжы Вял. кн. Літоўскага. Колькасць рускіх мігрантаў узрасла ў 2-й пал. 17— пач. 18 ст. (большасць іх складалі стараверы), пасля далучэння Беларусі да Расіі (чыноўнікі і памешчыкі) і пасля паўстання 1830—31 (таксама і сяляне). Разам з тым, у сярэдзіне 19 ст. колькасць рускага насельніцтва была не больш 10 тыс. чал. (0,3 %). Пасля падаўлення паўстання 1863—64 руская мова заняла пануючае месца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, што абумовіла ўзмацненне ўплыву рускай культуры на развіццё культуры бел. народа, асабліва ў гарадах. Гэты працэс меў супярэчлівы характар — руская мова і культура служылі сродкам асіміляцыі карэннага насельніцтва. У канцы 19 ст. колькасць Р. (без стараавераў) — 235 тыс. чал. (3,6 %). Пры гэтым, колькасць Р.-мігрантаў складала толькі 90 тыс. чал., астатнія — русіфікаваныя беларусы.



Ручнік з Віцебскага раёна. Пачатак 20 ст.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Р.— найбольш растучая і адна з асноўных іншаэтнічных груп насельніцтва БССР (паводле перапісу ў 1926—384 тыс. чал., 7,7 %; у 1959—659 тыс., 8,2 %; у 1970—938 тыс., 10,4 %; у 1979—1134 тыс., 11,9 %). Значную частку Р. мігрантаў складалі рабочыя, спецыялісты ў розных галінах нар. гаспадаркі, выкладчыкі ВНУ, вучоныя. У пасляваенны перыяд шмат мігрантаў накіроўвалася ў сельскую гаспадарку. Прырост колькасці рускага насельніцтва ў пэўнай ступені забяспечаны развіццём асіміляцыйных працэсаў некаторых нацыянальных меншасцей, міжэтнічнымі шлюбамі. Р. на Беларусі маюць усе магчымасці задаволіць свае патрэбы ў сферы культуры і асветы. Руская мова займае сталае месца ў сучасным грамадскім і культурным жыцці рэспублікі. Яна ўвайшла ў паўсядзённы ўжытак

усяго гарадскога насельніцтва, на ёй вядзецца справаводства, афіцыйная перапіска, выкладанне ў пераважнай большасці школ, ВНУ, тэхнікумах і ПТВ, выходзіць шмат кніг, перыядычных выданняў, на ёй ствараюцца кінафільмы, спектаклі ў большасці тэатраў рэспублікі. *П. У. Церашковіч.*

**РУЧА́ЙКА,** верацяно з напрадзенымі ніткамі; умоўная мера нітак.

**РУ́ЧКА,** даўняя адзінка вымярэння; посуд для захоўвання мёду. Раўнялася 15,5 гарца. У некаторых мясцовасцях у 11—17 ст. выкарыстоўвалася ў якасці падатковай адзінкі пры спагнанні мядовай даніны.

Ручнік з Драгічынскага раёна. 1980-я г.

**РУЧНІ́К,** кавалак тканіны абрадавага, дэкаратыўнага і утылітарнага прызначэння. Шырыня яго вар'іравалася ад 25 да 45 см залежна ад шырыні ткацкага стана, даўжыня — ад 1 да 4 м (звычайна 2—3 м).

Апрача утылітарнага прызначэння да пачатку 20 ст. Р. ўжываліся для штодзённага і святочнага дэкаратыўнага ўбрання жылля і абразоў (Р.-набожнікі); былі адным з неабходных абрадавых атрыбутаў у вясельным і пахавальна-памінальным абрадах. Уваходзілі ў пасаг нявесты, з'яўляліся неабходнай часткай падарункаў нявесты жаніху, сватам, родзічам жаніха. Р. перавязвалі цераз плячо важнейшых удзельнікаў вяселля. Іх пасцілалі як «падножнік», на які станавіліся маладыя ў час царкоўнага вянчання, выкарыстоўвалі для абрадавага звязвання маладых, для абгортвання рук нявесты і жаніха ва ўрачыстыя моманты вяселля (гл. *Звядзенне).* Да ўстойлівых традыцый адносіцца паказ у хаце жаніха ўзорыстых тканін, у першую чаргу Р. з пасагу нявесты. На Палессі Р., завязаны на руку, дапаўняў вясельны касцюм маладой. Р. клалі нябожчыку ў труну, нярэдка абівалі яе, прывязвалі да паводоў каня, які вёз нябожчыка на могілкі. На Р. апускалі труну ў магілу,

Ручнік з Пінскага раёна. 1960-я г.

Р. упрыгожвалі надмагільны крыж. Як знак жалобы Р. вывешвалі за акно на сарачыны, на дзяды.

У час засухі, эпідэмій, вайны і інш. няшчасцяў жанчыны ўсяго сяла ткалі на працягу дня ці ночы *абыдзённік,* які выконваў функцыю апатрапея. Узорысты Р. — адзін з прадметаў, які найчасцей ахвяроўвалі як дар у царкву, касцёл, капліцу, на крыжы, што стаялі ра расстайных дарогах (гл. *Аброчныя тканіны).* Р. займалі таксама важнае месца ў каляндарных звычаях і абрадах. На вадохрышча Р. часам упрыгожвалі ледзяны крыж, на сёмуху іх ахвяроўвалі бярозе як духу расліннасці, на Купалле разам з вянкамі з жывых кветак развешвалі на прыдарожныя крыжы, на зажынках першы сноп абвязвалі стужкамі, прадзівам ці Р., ім жа ахіналі гэты сноп у куце. У мінулым Р. быў, верагодна, своеасаблівым язычніцкім абразом, магічным апатрапейным сімвалам роду, сям'і, з дапамогай якога быццам бы ажыццяўлялася сувязь паміж нашчадкамі і продкамі.

Р. аздаблялі разнастайным па тэхніцы ўзорыстым натыканнем (браным, выбарным, пераборным, шматнітовым, закладным), вышыўкай (працягам, лічанай і адвольнай гладдзю, крыжыкам, сакаленнем), упрыгожвалі зубчастымі карункамі (фабрычнымі, часцей самавязанымі кручком), арнаментальнымі прошвамі, махрамі, палоскамі чырвонага паркалю. Характар дэкору, размешчанага звычайна на канцах Р., падпарадкоўваўся некалькім устойлівым кампазіцыйным схемам. Да найбольш пашыранага тыпу адносяцца кампазіцыі з некалькіх папярочных палос, якія падпарадкаваны адна адной і ўтвараюць адзінае цэлае; адна з палос, як правіла, цэнтральная ці ніжняя, з'яўляецца вядучай па шырыні, складанасці і маляўнічасці арнаменту. Не менш папулярныя шмат'ярусныя кампазіцыі з некалькіх роўных па дэкаратыўнай значнасці палос. Тыя ж прынцыпы ўласцівы бардзюрным кампазіцыям, размешчаным па вертыкальнай восі сіметрыі. Асобны тып складаюць сеткавыя ўзоры. У тканых, вышываных Р. пераважае традыцыйнае колеравае спалучэнне чырвонага дэкору з белым фонам палатна. Падобная гама нярэдка дапоўнена сінімі або чорнымі ніткамі. Добра вядомы манахромныя Р., тканы ўзор якіх даваў вытанчаныя святлоценявыя пералівы кужэльных нітак. Кантрастнае перапляценне суровага ці фарбаванага льну і белай баваўны характэрна для пераборных Р. з прыцісной асновай. Арнамент бел. Р. надзвычай багаты і разнастайны. На рубяжы стагоддзяў у ім пераважалі геаметрычныя матывы, бытавалі выяўленчыя раслінна-геаметрызаваныя, арнітаморфныя, зрэдку антрапаморфныя ўзоры. У апошні час трывала ўвайшлі паліхромныя раслінныя кампазіцыі.

Мастацкае афармленне Р. мае шмат агульнага з арнаментам нар. бел. касцюма. Нягледзячы на ідэнтычнасць матэрыялу, устойлівасць асноўных рыс арнаментальнага комплексу, Р. кожнага гісторыка-этнагр. рэгіёна вылучаюцца пэўным вобразна-кампазіцыйным вырашэннем. Для Панямоння характэрна шырокае бытаванне манахромных белых Р.: 5-нітовых са складаным геаметрычным малюнкам, браных адначасова з паўажурным і фактурным дэкорам, 8-нітовых аднаўточных з рэльефнымі падоўжнымі палосамі саржавага перапляцення, утвораных рытмічным чаргаваннем вонкавых і адваротных участкаў. Спарадычна трапляюцца Р. з чырвона-чорным ромба-геаметрычным браным арнаментам. Пашыраны 4-нітовыя белыя, блакітна-белыя Р. з кантрастным малюнкам; шэра-белыя пераборныя з прыціскной асновай Р. ад-

метныя вертыкальным размяшчэннем арнаменту.

У цэнтр. рэгіёне значную частку складаюць 8-нітовыя аднаўточныя, 4-нітовыя двухуточныя Р. Буйнарапортны шашачны малюнак шэра-белага палатна выразна падкрэсліваецца выкарыстаннем чырвоных уточных нітак, якія ўтвараюць на канцах узорныя палосы (Пухавіцкі, Любанскі, Слуцкі р-ны). Складаная распрацоўка шматнітовых белых узораў, блізкая да Панямоння, характэрна для Р. ПнЗ ад Нясвіжскага да Мядзельскага р-наў. Спалучэннем графічна-распрацаванага бранага і 4-нітовага арнаменту вылучаюцца Р. ўсх. раёнаў. Арыгінальныя 4-нітовыя Р. Барысаўскага, Крупскага р-наў, канцы Шаркоўшчынскі, Пастаўскі р-ны) канцэнтруюцца выбарныя Р. з чырвоным ці больш познім паліхромным каларытам. Ва ўзорах устойліва паўтараюцца матывы буйной 8-вугольнай зоркі, перакрэсленай крыжамі з квітнеючымі канцамі, антрапаморфныя фігуры, матыў дрэва жыцця, вазона (гл. *Віцебскія ручнікі*). Архаічная арнаментыка прысутнічае таксама ў вышыўцы роспісам, перавіцці з насцілам. Цікавы тып вышываных крыжыкам Р. склаўся ў Дубровенскім р-не. Прадуманая, па-мастацку распрацаваная шмат'ярусная кампазіцыя гарманічна спалучае раслінна-геаметрызаваныя і геаметрычныя сеткавыя бардзюры.

Характэрная асаблівасць Р. Падняпроўя — насычанасць каларыту, разнастайнасць спосабаў нанясення тканага і вышыванага дэкору, кантрастнае процiпастаўленне цяжкіх, шчыльна запоўненых арнаментам канцоў манахромнай чысціні сярэдзіны. Класічны тып бранага двухуточнага Р. з буйнымі выразна-дэкаратыўнымі рамбічнымі матывамі прасочваецца на тэр. Магілёўскага, Чавускага, Быхаўскага, Слаўгарадскага р-наў. Адна з вяршынь мастацкага аздаблення — браныя *кіраўскія ручнікі*, з старажытнымі іголнымі карункамі чырвонага колеру з бела-чорным геаметрычным малюнкам. Своеасаблівыя шклоўскія, бялыніцкія 4-, 8-нітовыя Р., аздобленыя на канцах квадратным кавалкам вышыванага крыжыкам палатна. Самабытны тып Р. сфарміраваўся на ўсх. раёнах Падняпроўя — ад Касцюковіцкага да Веткаўскага р-наў. Адметныя рысы іх — спалучэнне арнаментальных браных і закладных палос, браных і гладкіх рыпсавых чырвоных палос, шырокае выкарыстанне перабору «пад паркі» — з буйнымі белымі матывамі на чырвоным рыпсавым фоне. Ювелірнасцю складанага ромба-геаметрычнага арнаменту прыцягваюць увагу браныя гомельскія Р. Шырока вядомы *неглюбскія ручнікі*, добрушскія Р. з рэльефнай фактурай пераборнага чырвона-чорнага дэкору. У Падняпроўі побач з узорным ткацтвам здаўна бытавалі традыцыі арнаментальнага нашывання рознымі відамі гладзевых швоў, сакалення.

Р. Усх. Палесся ўпрыгожвалі ўзоры бранага двухуточнага ткання, разнастайнай па тэхніцы вышыўкі. Своеасаблівы тып кампазіцыйнага і арнаментальнага вырашэння ў браных *калінкавіцкіх ручніках*. Багатыя арнамент, каларыт Р. Тураўшчыны, дзе разам са старажытным браным можна сустрэць раслінна-кветкавы вышываны крыжыкам, паліхромнай гладдзю арнамент.

Асноўныя мастацкія прыёмы Р. Зах. Палесся — кампазіцыі з гладкіх ці дробнаўзорыстых, розных па шырыні каляровых палос рыпсавага, саржавага перапляцення. Пераважае стрыманы мяккі бела-чырвоны каларыт. *Пінска-івацэвіцкія ручнікі* вылучаюцца напружаным рытмам рыпсавых чырвоных палос. Яркія стылістычныя рысы ўласцівы высокамастацкім *мотальскім ручнікам*. Асаблівая адбеленасць вытанчанага льнянога палатна, сціпласць дэкору характэрны для 4-нітовых Р. Драгічынскага р-на. Даўнія традыцыі бранага ромба-геаметрычнага ткання захаваны ў лунінецкіх, ганцавіцкіх Р. Цікавыя 8-, 4-нітовыя *ляхавіцкія ручнікі* з шашачным полем і актыўна-эмацыянальным дэкорам у выглядзе шчыльных цёмна-чырвоных палос з паліхромнымі ўкрапінамі. Сучасныя Р.



**Ручнік** з Івацэвіцкага раёна.



Покуць з **ручніком**-набожнікам. Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.

якіх затканы выбарнымі геаметрычнымі матывамі чырвонага колеру на палатняным фоне. Чырвона-белыя закладныя *капыльска-клецкія ручнікі* своеасаблівым лаканічным арнаментам нагадваюць вядомыя круляневецкія Р.

Р. Паазер'я арнаментавалі браным, выбарным, а таксама ажурным і шматнітовым тканнем. Да старажытных тэхнік адносіцца тут і нашыванне. Браныя Р., што сустракаюцца амаль па ўсёй Віцебшчыне, адметныя графічнай яснасцю геаметрычнага арнаменту, своеасаблівай разбеленасцю чырвонага дэкору, каларыстычны эфект якога ствараўся раўназначнымі суадносінамі фону і ўзору. Вытанчаны дробны стылізавана-раслінны арнамент вылучае браныя віцебскія Р. Для Р. Шумілінскага, Бешанковіцкага р-наў характэрны кампазіцыі, дзе над строгім браным бардзюрам вытканы рад адзінкавых выбарных геаметрычных матываў. У зах. раёнах Віцебшчыны (Браслаўскі, Міёрскі,

вырабляюць з ільняных, баваўняных, шаўковых нітак. Узоры традыцыйных бел. Р. працягваюць жыць у вырабах сучасных майстроў нар. промыслаў.
*В. Я. Фадзеева.*

**РЫБАВО́ДСТВА,** галіна рыбнай гаспадаркі, якая займаецца развядзеннем рыбы ў штучных вадаёмах, павелічэннем і паляпшэннем рыбных запасаў у натуральных вадаёмах. Вядома з часоў феадалізму. У 15 ст. ў многіх маёнтках былі рыбаводныя гаспадаркі. Пабудова запруд і капанне сажалак для вырошчвання рыбы былі распаўсюджанымі павіннасцямі прыгоннага сялянства, што было замацавана «Уставай на валокі» 1557, а Статут Вял. кн. Літоўскага 1588 вызначаў пакаранне за самавольную лоўлю рыбы ў вадаёмах. У 18 — пач. 19 ст. рыбныя гаспадаркі ўяўлялі сабой развітыя рыбаводныя прадпрыемствы, якія амаль не адрозніваліся ад падобных гаспадарак зах.-еўрапейскіх краін. Яны складаліся з сістэмы сажалак, агароджаных дамбамі і плацінамі, адны выкарыстоўваліся для рыб-вытворнікаў, другія — для нерасту, трэція — для захавання рыбы зімой і г. д. Сажалкі абслугоўвалі спецыяльныя работнікі. Там, дзе вадаёмы не злучаліся паміж сабой пратокамі, рыбу перавозілі ў спецыяльных бочках. Найбольш буйныя рыбаводныя гаспадаркі былі ў маёнтку Альба кн. Радзівіла ў Мінскай губ. (спецыялізавалася на развядзенні карпа і фарэлі), у маёнтку Смаляны памешчыка Цітова ў Магілёўскай губ., у маёнтку Пескі памешчыка Паслаўскага, у маёнтку Пешкава графіні Комар і ў маёнтку Корч памешчыка Чычэрына ў Гродзенскай губ. (ва ўсіх разводзілі карпа) і інш. У 1920-я г. былі адноўлены старыя рыбаводныя гаспадаркі і створаны новыя («Чырвоная зорка», «Сляпянская», «Лукомльская», «Белаазёрская» і інш.). У наш час Р. прадстаўлена комплексам рыбаводных прадпрыемстваў, рыбакамбінатаў, сажалкавых, азёрнатаварных і садковых рыбных гаспадарак, рыбагадавальнікаў, у якіх разводзяць і гадуюць карпа, сярэбранага карася, белага амура, звычайнага (белага) і стракатага таўсталобіка і інш. З мэтай распрацоўкі навуковых метадаў развіцця Р. ў рэспубліцы створаны Бел. навукова-даследчы і праектна-канструктарскі ін-т рыбнай гаспадаркі.
*І. М. Браім.*

**РЫБАКО́Ў** Барыс Аляксандравіч [н. 21.5(3.6).1908, Масква], савецкі археолаг, гісторык і грамадскі дзеяч, Акад. АН СССР (1958) і замежных АН, ганаровы д-р Ягелонскага ун-та ў Кракаве (1964), чл. Выканкома Міжнар. саюза дагіст. і протагіст. навук (з 1958), Міжнар. к-та славістаў (з 1963). Герой Сац. Працы (1978). Чл. КПСС з 1951. Скончыў Маскоўскі ун-т (1930). Праф. гэтага ун-та (з 1943), дырэктар Ін-та археалогіі (з 1956), акадэмік-сакратар аддзялення гісторыі АН СССР (1973—75). Асноўныя працы па сацыяльна-эканам. і паліт. гісторыі ўсх. славян і Стараж. Русі, гісторыі стараж.-рускага рамяства і культуры, язычніцтву, метралогіі, эпіграфіцы, летапісанню, нар. эпасу і інш. Выкарыстоўвае бел. фальклорны і этнагр. матэрыял пры выяўленні слядоў архаічнасці, дагіст. культаў славян. Займаўся важнай для сярэдневяковай гісторыі Беларусі тэмай пра радзімічаў. Адзін з аўтараў «Гісторыі культуры Старажытнай Русі» (т. 1—2, 1948—51), «Гісторыі рускага мастацтва» (т. 1, 1953), «Гісторыі СССР ад старажытных часоў да нашых дзён» (т. 1, 1966). Ленінская прэмія СССР 1976, Дзярж. прэмія СССР 1949, 1952.

*Тв.:* Радзімічы //Працы секцыі археалогіі Беларускай АН. Мн., 1932. Т. 3; Ремесло Древней Руси. М., 1948; Древняя Русь. Сказания. Былины. Летописи. М., 1963; Русские датированные надписи XI—XIV веков. М., 1964; Первые века русской истории. М., 1964; Язычество древних славян. М., 1981; Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982; Язычество Древней Руси. М., 1987.
*А. Ю. Лозка.*

**РЫБАЛО́ЎНЫЯ ПРЫЛА́ДЫ,** прыстасаванні для лоўлі рыбы ў рэках і азёрах. Паводле прынцыпу дзеяння і спосабаў лоўлі традыцыйныя Р. п. падзяляюць на *невады, сеткі*, стаўныя пасткі, рухомыя пасткі, кручковыя снасці, ударныя прылады. Група невадаў аб'ядноўвае зімовыя невады, падвалокі (летнія невады), *мутнікі* (донныя невады), *брэдні*. Усе яны ўяўляюць сабой сеткавую сцяну з адкрытым сеткавым мяшком пасярэдзіне. Рыба, трапіўшы ў іх, быццам адцэджваецца ад вады. Блізкія да іх паводле прынцыпу лоўлі, але без сеткавага мяшка, *латы* і *крыгі*. Сярод сетак найбольш пашыраны адна- і трохсценныя (трыгубіцы). Іх устанаўлівалі на пэўны час у вадаёмах, сплаўлялі па цячэнню ракі, або, перагарадзіўшы частку вадаёма, заганялі ў сетку рыбу спец. шастом — *баўтом*. Рыба заблытвалася ў вочках сеткі. У лоўлі рыбы стаўнымі пасткамі (*езы, венцяры, мярэжы*) выкарыстоўвалі натуральнае імкненне рыбы знайсці праход пры сустрэчы на сваім шляху перашкоды. У праёмах езаў і паасобку размяшчалі *паплавы* і *нярэжкі* (сеткавыя мяшкі на шастах), *нераты* (сеткавыя мяшкі, нацягнутыя на драўляны каркас), *бучы* (зробленыя з прутоў конуса- або цыліндрападобныя камеры з горлам, накіраваным унутр іх); пад струмень вады, што біў з адтуліны ў плаціне вадзянога млына, падстаўлялі мяшок, нацягнуты на квадратную раму — *ват*. Рыбу, якая імкнулася да свежай вады з-за недахопу кіслароду у замёрзлым вадаёме, лавілі ў палонках з дапамогай *каробак* і *скрыпак*. Рухомыя пасткі вызначаліся адсутнасцю ў іх перагародак, што перашкаджала выхаду рыбы. Таму, каб зберагчы ўлоў, пасткі хутка паднімалі з вады наверх. *Волакам* (сеткавы мяшок, прывязаны да двух шастоў) рыбачылі, сплаўляючы яго па цячэнню ракі; *браданам* (сеткавы мяшок, прымацаваны да двух шастоў, злучаных паміж сабой планкай) лавілі ўброд і з лодкі; *таптухамі, кломлямі, сакамі* (сеткі, нацягнутыя на драўляныя каркасы) рыбачылі ўброд. *Хапунамі, падсакамі* вычэрпвалі рыбу з вады, з *наставак* выбіралі рукамі. Пры лоўлі кручковымі снасцямі рыбу прынаджвалі чарвяком, рознымі насякомымі, іх лічынкамі, хлебам, гарохам і інш. або блешняй — бліскучай металічнай пласцінкай, якая імітуе ў вадзе жывую рыбку. З прынадных кручковых снасцей найб. пашыраны паплаўковыя і донныя *вуды, перамёты, старожні*, снасці для лоўлі самоў, з імітацыйных — *блёсні, дарожкі, матылькі, дракі*. Ударнымі прыладамі рыбу нанізвалі на востры наканечнік *(восці)*, падчэплівалі яе знізу круком *(багром)*, аглушалі ўдарам па лёдзе дубінай, драўлянай чуркай *(чакухай)*, драўляным молатам, абухом сякеры.

Як правіла, Р. п. выраблялі самі рыбаловы, зрэдку набывалі сеткавае палатно ў сеткавязальшчыкаў (гл. ў арт. *Сеткавязанне*). Большасць Р. п. сустракалася па ўсёй Беларусі. Некаторыя снасці або іх тыпы былі характэрны для пэўных рэгіёнаў: паплавы, катцы, каробкі, нярэжкі, кломлі, таптухі на абручах, браданы, нераты ў форме поўнага конуса, матылі, чакухі — для Палесся; зімовыя невады, мутнікі, стаўныя аднасценныя сеткі, нераты ў форме паўконуса, блёсні, дракі, багры — для Паазер'я; трыгубіцы, скрыпкі, седжы, волакі без шастоў, брэдні з планкамі ў крылах — для Падняпроўя.

З традыцыйных Р. п. у сучасным прамысловым рыбалоўстве ўжываюць невады, сеткі, мярэжы, а ў аматарска-спартыўным — вуды, дарожкі, матылі, старажні, перамёты, блёсні, падсакі. Папулярнымі сталі спінінгі. З'явіліся новыя тыпы вуд і новыя іх дэталі. Пры вырабе Р. п. выкарыстоўваюцца сінтэтычныя матэрыялы і розныя металічныя сплавы.
*І. М. Браім.*

**РЫБАЛО́ЎСТВА,** адна з форм гаспадарчай дзейнасці чалавека; здабыча рыбы ў рэках, азёрах і інш. вадаёмах. Вядома з эпохі палеаліту. У эпоху неаліту займала першае месца сярод інш. відаў гаспадарчай дзейнасці людзей; існавала побач са *збіральніцтвам* і *паляўніцтвам*. Пашырэнню Р. спрыяла мноства вадаёмаў з багатай іхтыяфаунай (у наш час на тэр. БССР 20,8 тыс. рэк і каля 10,8 тыс. азёр, у якіх водзіцца 54 віды рыб). З развіццём *земляробства* і *жывёлагадоўлі* Р. набыло характар падсобнага промыслу.

У перыяд феадалізму значная колькасць злоўленай рыбы ішла на задавальненне патрэб памешчыцкіх двароў і манастыроў. Р. было павіннасцю часткі прыгоннага сялянства (многія сяляне плацілі невадную павіннасць грашыма, вязалі сеткі для панскага двара, рамантавалі іх, вілі невадныя вяроўкі) і некаторых прыватнаўласніцкіх гарадоў. Рыбацкія цэхі ў 17—18 ст. існавалі ў Слуцку, Шклове і інш. Так жыхары Давыд-Гарадка з 16 і да пач. 19 ст. мусілі ўдзельнічаць у рыбнай лоўлі і пастаўляць на панскі двор розныя віды

рыб. З пашырэннем таварна-грашовых адносін таварны характар набыло і Р. (асабліва ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст.). Рыба стала прадметам гандлю, яе прадавалі на мясцовых рынках, дзе стаялі асобныя рыбныя крамы ці нават цэлыя рады крам. Некаторыя гандляры спецыялізаваліся на продажы рыбы, вывозілі яе ў Пецярбург, Смаленск, Пскоў, Кіеў, Вільню, Варшаву, у гарады Прусіі. У Германію экспартавалася рыбная луска, дзе з яе выраблялі штучны жэмчуг. Рыбалоўны промысел быў найб. распаўсюджаны на Палессі і Паазер'і. Гэтаму спрыялі і існаваўшыя тут рыбалоўныя *сервітуты*. Рыбачылі па аднаму і арцелямі. Многія наймаліся да арандатараў памешчыцкіх і казённых вадаёмаў. Рыбу збывалі пераважна скупшчыкам, якія рэалізоўвалі яе на рынках. Многія рыбакі выязджалі на промысел на вадаёмы, аддаленыя ад пастаяннага месца жыхарства. Р., якое абумоўлівала спецыфіку вытворчага быту, уплывала і на побыт насельніцтва: рыбакі імкнуліся будаваць жыллё каля вады, у гарадах і мястэчках жылі на асобных вуліцах, іх духоўнае жыццё было цесна звязана са шматлікімі рыбацкімі прыкметамі, павер'ямі і абрадамі. Занятак Р. уплываў на побыт жыхароў прыбярэжных вёсак, якія рыбачылі спарадычна ў вольны ад землярobчых работ час: зімой, ранняй вясной і летнімі начамі.

У сав. час Р. стала галіной рыбнай прамысловасці, у якую акрамя яго ўваходзіць *рыбаводства* і перапрацоўка рыбы. Рыбная лоўля рэгулюецца устаноўленымі правіламі Р. Прамысловая здабыча рыбы ў наш час вядзецца брыгадамі дзяржлову, калгасамі і нарыхтоўчымі арганізацыямі. У працы і побыце рыбакоў адбыліся істотныя змены, павысіўся іх матэрыяльны ўзровень, змяніліся ўмовы працы: сталі больш дасканалымі *рыбалоўныя прылады*, выкарыстоўваюцца катэры, маторныя лодкі, механічныя лябёдкі і інш. механізмы; рыбакі забяспечваюцца спецвопраткай і абуткам. У наш час рыбная лоўля набыла і аматарска-спартыўны характар, стала масавым відам адпачынку насельніцтва. Значная частка аматараў рыбнай лоўлі аб'яднана ў Бел. таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

*І. М. Браім.*

**РЫБА́ЦКІЯ АРЦЕ́ЛІ**, аб'яднанні рыбакоў для сумеснага промыслу (гл. *Рыбалоўства*). Існавалі паявыя Р. а. і арцелі наёмных рыбакоў. Пры арганізацыі паявых арцелей кожны рыбак уносіў сваю долю (пай) сеткавага палатна або грошы на куплю яго, удзельнічаў у вырабе і рамонце невада. Даходы размяркоўваліся паміж членамі арцелі ў залежнасці ад паю. На чале арцелі стаяў атаман, або заводнік. Колькасць членаў арцелі залежала ад памераў і тыпу невада (3—15 чал.). Нярэдка арцелі набіралі падсобных рабочых (здольнікаў). Паявыя арцелі лавілі рыбу ў вадаёмах агульнага карыстання ці арандавалі вадаёмы, што належалі памешчыкам або сялянскай грамадзе. Арцелі наёмных рыбакоў ствараліся па ініцыятыве арандатараў вадаёмаў, якія мелі ўласныя невады. Арандатар даручаў вопытнаму рыбаку арганізацыю арцелі, ён і станавіўся яе атаманам. Праца арцельшчыкаў аплачвалася грашыма або рыбай падзённа, памесячна ці ў канцы сезона і залежала ад уловаў; у гарачую пару с.-г. работ аплата была больш высокай. Некаторыя арандатары забяспечвалі рыбакоў прадуктамі харчавання, ботамі, фартухамі, рукавіцамі, за што ім даводзілася адрабляць. Падсобным рабочым плацілі падзённа грашыма або рыбай. Атаман арцелі наёмных рыбакоў меў значна большы даход. У час промыслу на аддаленых вадаёмах рыбакі кватаравалі ў прыбярэжных вёсках ці жылі ў *куранях*. У 1920-я г. стваралiся Р. а., якім сав. дзяржава аказвала падтрымку і дапамогу. У 1930-я г. на змену ім прыйшлі калгасныя рыбалоўныя брыгады. *І. М. Браім.*

**РЫБА́ЦКІЯ ЛО́ДКІ**, малыя вёславыя судны, прызначаныя для лоўлі рыбы. Вядомы з неаліту. Самы стараж. тып Р. л. — выдзеўбаны са ствала дубу, асіны або ліпы *човен*. Каб павялічыць хісткасць чаўноў, да бартоў некаторых з іх прыбівалі драўляныя брусы. Называліся такія чаўны *камягамі*. На Магілёўшчыне і ва ўсх. частцы Гомельшчыны пры вырабе чаўноў драўніну распарвалі кіпнем і сагнутымі арэхавымі палкамі разгіналі барты. Такія судны былі лёгкімі, і іх можна было пераносіць з вадаёма ў вадаём. Сустракаліся чаўны з нашытымі дашчанымі бартамі (абшыванкі). У 19 ст. рыбакі выкарыстоўвалі дашчаныя лодкі. Дошкі днішча і бартоў змацоўваліся паміж сабой какорамі, зробленымі з натуральна выгнутых тонкіх стваалоў дрэў. На Гомельшчыне былі пашыраны вузкія лодкі, у якіх нос прыўзнімаўся над вадой. Шырэйшыя і карацейшыя Р. л. выраблялі на Магілёўшчыне. На З Беларусі дашчаныя лодкі мелі 2 насы («чайкі»), на Нёмане насы загіналі ўверх. На Палессі вял. невадныя лодкі, як і звычайныя, былі доўгімі і вузкімі, у Паазер'і — карацейшыя, з шырокім развалам. Для падцягвання невада ў некаторых лодках рабілі спец. прыстасаванні — вараткі. На Магілёўшчыне і ўсх. Гомельшчыне рыбакі-сетачнікі ўкладвалі свае снасці на *сціабла* (драўляны жолаб), канцы якога апіраліся на барты. Дняпроўскія рыбакі выкарыстоўвалі лодкі з пакорай — паўкруглай лубяной страхой у насавой частцы. Пад ім захоўвалі прадукты, сухое адзенне; тут рыбак хаваўся ад дажджу і адпачываў. На Шчары і Нёмане такія накрыўкі рабілі з дошак. Каб зберагчы рыбу жывой, некаторыя рыбакі ў адным з адсекаў чаўна або лодкі пракручвалі ў бартах дзіркі для цыркуляцыі вады. Для перавозу жывой рыбы прызначаліся спец. лодкі — *шкудкі*. Сучасныя рыбакі-аматары побач з традыцыйнымі дашчанымі выкарыстоўваюць лодкі, зробленыя з метал. сплаваў і гумы. *І. М. Браім.*

**«РЫБКА»**, танец-гульня. Выконвацца пад вясёлую музыку. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Усе выканаўцы (акрамя двух) становяцца ў лінію і бяруцца за рукі. Тыя, хто засталіся,— «рыбак» і «рыбка». Яны становяцца па розныя бакі агульнай лініі. «Рыбак» павінен злавіць «рыбку». «Рыбцы» дазваляецца прабягаць пад злучанымі рукамі гульцоў, а «рыбак» павінен аббягаць усю лінію, каб апынуцца на яе другім баку. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Браслаўскім раёне. *А. Л. Варламаў.*

**РЫМАРСТВА**, рамяство па вырабу раменнай *вупражы*. Сыравіну для вупражы — *сырамяць* (сырыцу) — рыхтавалі самі *рымары*. Прылады працы і прыстасаванні для Р.: цiскі (клешчы, столак) для заціску скуры пры шыцці шлей, прэс для ўціскання драўляных частак у скуру пры вырабе падсядзёлкаў, а таксама жалезныя абцугі, малаток, нож, шыла, іголкі, драўляныя клешчы для хамутоў і інш. Шылі вупраж дратвай ці вузкімі скуранымі паскамі. *Н. І. Буракоўская.*

**РЫМАРЫ**, рамеснікі, якія займаліся апрацоўкай *сырамяці* (сырыцы) і пашывам раменнай *вупражы*. Р. працавалі пераважна на заказ.

**РЫНАК**, б а з а р, адна з пашыраных форм гандлю, а таксама месца, якім часцей за ўсё служыла гандлёвая плошча са спадарожнымі будынкамі і абсталяваннем. Вядомы з глыбокай старажытнасці, першапачаткова як санкцыяніраваны нар. звычаем натуральны абмен паміж тэрытарыяльнымі аб'яднаннямі, плямёнамі ці асобнымі абшчынамі. У эпоху феадалізму збіраўся штотыднёва ў пэўныя дні паміж *кірмашамі* ў буйных населеных пунктах, каля манастыроў, на скрыжаванні гандлёвых шляхоў. Выконваў тыя ж функцыі, што і кірмаш, але ўступаў яму ў памерах. Уплываў на развіццё грамадскай вытворчасці, рамёстваў і промыслаў, сельскай гаспадаркі, шляхоў зносін, на характар этнасацыяльных і этнакультурных працэсаў, спрыяў паскарэнню фарміравання нацый і ўзбагачэнню культуры. Р. адлюстроўвае характар жыццядзейнасці і эканам. стан грамадства. У наш час працуюць калгасныя Р. *В. С. Цітоў.*

**РЫНКА**, гліняная пасудзіна для смажання страў. Была круглая, плоская, на трох ножках з полым дзяржальнам, у якое ўстаўлялася драўляная ручка, або мела 2 вушкі. Назву атрымала ад стараж.— нямецкага Rina (трохногі гліняны гаршчок, тыгель). На Беларусі першыя непаліваныя Р., вылепленыя на ручным ганчарным крузе, датуюцца 15 ст. У 16—18 ст. Р. фармавалі на нажным крузе (ножкі ляпілі асобна), унутраную паверхню звычайна пакрывалі зялёнай ці карычневай палівай. Звонку часам упрыгожвалі штампаваным сеткавым арнаментам ці з дапамогай шматраднага грабеньчыка. Па памерах і форме выдзяляюць 2 разна-

віднасці Р.: плыткія (глыбінёй 3—6 см з дыяметрам венца 16—21 см і ножкамі вышынёй 4—7 см і полым дзяржальнам) і глыбокія (з памерамі адпаведна 10—13 см, 34 см і да 10 см з дзвюма петлепадобнымі ручкамі). Апошнія фармавалі на аснове макатра. Са з'яўленнем фаерачных печаў вытворчасць Р. паступова занепала, замест іх з'явіліся *пражэльнікі* з плоскім донцам без ножак. На З Беларусі Р. рабілі да пач. 20 ст. *Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў.*

**РЫПІНСКІ** Аляксандр Феліксавіч [1811, в. Кукавячына Віцебскага р-на — 1900(?)], беларускі і польскі паэт, фальклорыст. Скончыў Віцебскую гімназію. Вучыўся ў школе прапаршчыкаў у Дынабургу (цяпер Даўгаўпілс Латв. ССР). Удзельнік паўстання 1830—31, пасля эміграваў у Францыю. 21.11.1839 на пасяджэнні Польскага літаратурнага т-ва ў Парыжы прачытаў даклад пра бел. нар. песні, які пазней дапоўніў гісторыка-літаратурнымі і этнагр. звесткамі, апісаннямі і характарыстыкамі абрадаў, выслоўяў, музычнай культуры беларусаў Віцебшчыны і выдаў асобнай кн. «Беларусь» (Парыж, 1840). Пераехаўшы ў Лондан, заснаваў там вольную друкарню, дзе выдаў свае паэт. кнігі на польск. мове («Прарок», 1851, «Паэзія», 1853, «Сяржант-філосаф...», 1854) і бел. рамантычную баладу «Нячысцік» (1853, адна з першых у бел. л-ры, у аснову яе

**Рынка.** Мсціслаў. 17 ст.

пакладзены фальклорныя ўзоры). У 1859 вярнуўся на радзіму. Працаваў над гісторыяй бел. л-ры. Даў класіфікацыю бел. нар. песень. *У. І. Мархель.*

**РЫЦІХ** Аляксандр Фёдаравіч [23.6(5.7).1831, Пецярбургская губ.— пасля 1900], рускі этнограф, ваенны картограф. Ген.-лейтэнант (1891). Скончыў Інжынерную акадэмію (1853) і Акадэмію Генштаба (1858). Стаяў на пазіцыях вялікадзяржаўнага шавінізму. Склаў «Атлас народанасельніцтва Заходне-Рускага краю паводле вераызнанняў» (1863), у якім памылкова адносіў беларусаў-католікаў да палякаў. Найбольш каштоўныя яго этнагр. карты з этнічнай статыстыкай Беларусі, некаторых абласцей Расіі, замежных слав. народаў («Этнаграфічная карта славянскіх народнасцей», 1874, «Этнаграфічная карта Еўрапейскай Расіі», 1875). Працы Р., прысвечаныя Зах. краю («Матэрыялы для этнаграфіі Царства Польскага: Люблінская і Аўгустоўская губерні», 1864, і інш.), маюць апісальны характар. *В. К. Бандарчык.*

**РЭВІЗІІ**, люстрацыі, 1) праверка эканамічнага стану дзяржаўнай нерухомай маёмасці, вызначэнне прыбытковасці і ўстанаўленне памераў даходу ў казну; разнавіднасць інвентарных вопісаў (гл. *Інвентары*). У Вял. кн. Літоўскім праводзіліся з 16 ст. як акты перыядычнага кантролю пры перадачы новаму ўладальніку ці службовай асобе, пасля ваенных разбурэнняў і эпідэмій, а таксама з мэтай здабычы сродкаў на т. зв. «кварцянае» (наёмнае) войска, пры праверцы выніках правядзення *валочнай памеры*. Ажыццяўляліся рэвізорамі (люстратарамі), якія ў выніку праверак складалі спецыяльны дакумент — рэвізію (люстрацыя, попіс, рэестр). У іх апісваліся замкі, гарады, маёнткі, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, змяшчаліся звесткі пра даходнасць панскай гаспадаркі, колькасць ворнай зямлі і жывёлы, рамёствы і промыслы, арэнду млыноў, рудняў, корчмаў, піцейных устаноў і інш. Паказваліся колькасць сёл ва ўладаннях і іх назвы, якасць глебы ў кожным сяле, пералічваліся сялянскія двары, іх гаспадары, пазначаліся іх зямельныя надзелы і павіннасці (звесткі пра стан



Рэзгіны.

феадальнай і сялянскай гаспадаркі адсутнічалі). Сярод найбольш ранніх Р.— Полацкая Р. 1552, Р. пушчаў і пераходаў звярыных у Вял. кн. Літоўскім 1559, Рэвізія Пінскага і Клецкага княстваў 1552—55, Р. Берасцейскага староства, Кобрынскай і Гродзенскай эканомій, Бабруйскага, Гомельскага, Прапойскага староstваў і інш. Паводле сеймавай пастановы 1562 агульнадзярж. люстрацыі павінны былі праводзіцца кожныя 5 гадоў. Першая пачалася ў 1563. У далейшым адбываліся рэдка (у 1765 і 1789). Часцей праводзіліся па асобных ваяводствах і нават уладаннях. Пасля далучэння ў канцы 18 ст. Беларусі да Расіі перыядычна праводзіліся да 1876. Найбольш значная — у 1840—50-я г.

2) У Расіі 18—19 ст. Р.-перапісы насельніцтва, якое плаціла падаткі і адбывала рэкруцкую павіннасць. На Беларусі праводзіліся з 1772. *В. Ф. Голубеў.*

**«РЭ́ДЗЬКА»**, дзіцячая гульня. Рэгіянальныя назвы «Рэпа», «У рэдзьку», «У рэпку», «У хрэна», «У дзеда і бабу» і інш. Шырока вядома ўсх. славянам. Варыянты вылучаюцца сюжэтнай і тэатралізаванай разнастайнасцю, персанажамі і тэкстамі (паэтычнымі, дыялагічнымі). У цэнтры гульні — дзеці-«рэдзькі», якія сядзяць у радзе, трымаючы рукамі і каленямі адзін аднаго. Іншыя персанажы («дзед», «баба», «матка», «пані» і інш.) удзельнічаюць у пасадцы, доглядзе і вырыванні «рэдзькі» (па чарзе «выцягваюць» дзяцей, якія моцна трымаюцца). Звычайна «рэдзька» патрэбна «пані», якая «ўпала з печы і пабіла плечы». Гульня развівае акцёрскія здольнасці дзяцей, як і вядомая казка «Рэпка». Апісанні гульні «Р.» ў зборніках П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава і інш. *А. Ю. Лозка.*

**РЭ́ЗГІНЫ**, рэзвіны, прыстасаванне несць траву, сена, салому, зробленае з дзвюх дужак, абцягнутых вяровачнай сеткай. Каб падняць Р. на плечы і несці ў іх паклажу, дужкі сцягваюць пры дапамозе вяроўкі, рэменя або спецыяльнага крука.

**РЭЛІГІЙНЫЯ ВЕ́РАВАННІ**, фантастычнае адлюстраванне ў свядомасці людзей пануючых над імі прыродных і грамадскіх сіл, у якім зямныя сілы прымаюць форму незямных; рэлігійны светапогляд заснаваны на беспадстаўнай упэўненасці ў існаванні звышнатуральнага. Р. в. ўзніклі ў далёкай старажытнасці ў выніку абмежаванасці адносін людзей да прыроды і паміж сабою. У абшчынна-родавым грамадстве адлюстроўвалі перш за ўсё бездапаможнасць чалавека перад прыродай; у антаганістычным класавым грамадстве існаванне Р. в. абумоўлена сацыяльным прыгнётам. Спачатку бяссілле людзей перад незразумелымі і непадуладнымі ім з'явамі прыроды, а потым бяссілле эксплуатуемых у барацьбе з прыгнятальнікам парадкалі ўстойлівыя пачуцці залежнасці, страху, адчаю і інш., якія сталі псіхалагічным фактарам узнікнення і існавання ўяўленняў пра звышнатуральныя сілы і выклікалі імкненне ўздзейнічаць на іх. Гнасеалагічная перадумова ўзнікнення і існавання Р. в.— асабліваць працэсу пазнання, адрыў фантазіі ад жыцця, думкі ад рэчаіснасці, ператварэнне абстрактных паняццяў у самастойную сутнасць, істоту. У абшчынна-родавым грамадстве пануючымі Р. в. былі татэмістычныя, анімістычныя, фетышысцкія, магічныя, у раннекласавым — політэізм (мнагабожжа), на далейшых стадыях развіцця антаганістычнага класавага грамадства — монатэізм (аднабожжа).

Найбольш ранімі паводле паходжання Р. в. на Беларусі былі ўяўленні

пра звышнатуральныя ўласцівасці прыродных або зробленых чалавекам неадушаўлёных прадметаў, пакланенне ім (гл. *Фетышызм*). У некаторых мясцовасцях Беларусі доўга захоўваліся павер'і, звязаныя з камянямі. Напр., лічылі, што вялікія камяні каля в. Рудабелкі на Бабруйшчыне вылечваюць вочы, а камяні каля в. Пярэжыр на Міншчыне — глухату і параліч. Ім пакланяліся; ахвяроўвалі палатно, грошы і інш. Раннія паводле паходжання ўяўленні пра звышнатуральныя ўласцівасці жывёл. Напр., на Беларусі былі пашыраны павер'і, што бусел, вуж і мядзведзь нібыта садзейнічаюць чалавеку ў яго справах. У старажытнасці ў гонар мядзведзя вясной спраўлялі свята — *камаедзіцу*. Вытокі гэтых павер'яў паходзяць ад старажытнай формы Р. в. — *татэмізму*, з якім генетычна звязаны і ўяўленні пра *ваўкалакаў* (фантастычныя істоты, што маюць рысы ваўка і чалавека). У глыбокай старажытнасці ўзніклі і ўяўленні пра звышнатуральныя ўласцівасці некаторых чалавечых дзеянняў, якія нібыта ўплывалі на прадметы, істоты, з'явы навакольнай рэчаіснасці (гл. *Магія, Апатрапей*). З дапамогай магіі сяляне імкнуліся забяспечыць поспех у паляванні, рыбалоўстве, жывёлагадоўлі. Сярод гаспадарчых магічных абрадаў былі найб. пашыраны земляробчыя, якія выконваліся ў дні пэўных каляндарных свят: *каляд, масленіцы, Юр'я, купалля* і інш., а таксама напярэдадні, у час і пасля завяршэння земляробчых работ. Адсутнасць або недахоп медыцынскай дапамогі, няведанне прычын многіх хвароб абумовілі бытаванне лячэбнай магіі — *знахарства*. У адрозненне ад гаспадарчай магіі абрады лячэбнай магіі выконвалі толькі знахары і знахаркі або некаторыя асобы пад іх кіраўніцтвам. Найбольш пашыраным прыёмам былі замовы — абрадавыя моўныя формулы, якім прыпісвалі здольнасць уздзейнічаць на чалавека і навакольны свет (нібыта яны «адводзілі» хваробы). Менш за ўсё практыкавалі абрады шкоднай магіі, якая была заняткам т. зв. чараўнікоў і чараўніц. Паводле павер'яў, яны мелі незвычайны выгляд, што выклікаў страх у прымхлівых людзей. Прычына існавання ўяўленняў пра шкодную магію — неразвітасць грамадскіх адносін, абумоўленая панаваннем натуральных дробных гаспадарак. Вельмі старажытнае паходжанне маюць дэманалагічныя ўяўленні (гл. *Дэманалогія*) пра фантастычных істот (духаў), якія нібыта садзейнічаюць або шкодзяць чалавеку ў яго справах. Яны звязваліся са з'явамі прыроды (*лясун, вадзянік* і інш.), гаспадаркай і хатнім побытам (*дамавік* і інш.). Сярод вобразаў злой сілы найб. пашыраным быў вобраз *чорта*. У раннім сярэднявеччы на Беларусі былі пашыраны ўяўленні пра язычніцкіх багоў (гл. *Язычніцтва*): *Сварога, Сварожыча, Дажбога, Ярылу, Вялеса, Перуна* і інш. Для іх ушанавання ствараліся свяцілішчы — свяшчэнныя месцы, дзе ставілі фігуры язычніцкіх багоў — *ідалаў*, прыносілі ахвяры (гл. *Ахвярапрынашэнне*). З усталяваннем феадальнага ладу на Беларусі ў 10 ст. было ўведзена *хрысціянства*, якое стала пануючай рэлігіяй. Аднак яно не змагло поўнасцю выцесніць дахрысціянскія Р. в., хаця і зрабіла на іх значны ўплыў. Многія дахрысціянскія вераванні сталі элементамі хрысц. рэлігіі. Праваслаўная царква прымяркоўвала язычніцкія вераванні да сваіх абрадаў і свят (да каляд — святы нараджэння Хрыста і вадохрышча; да купалля — свята Іаана Прадцечы). Функцыі некаторых язычніцкіх багоў надаваліся хрысціянскім святым (Вялеса як апекуна жывёлагадоўлі — хрысц. святому Уласу; Ярылы як апекуна земляробства — хрысц. святому Юрыю; Перуна як увасаблення грому і маланкі — хрысц. святому Іллі). На месцы язычніцкіх свяцілішчаў будавалі хрысц. храмы (Полацкі Сафійскі сабор, Віцебская Благавешчанская царква, Гродзенская Барысаглебская царква і інш.). Крыніцы, якія прымхлівыя людзі надзялялі звышнатуральнымі ўласцівасцямі, асвячаліся хрысц. царквой і аб'яўляліся святымі. Над камянямі, якім у дахрысціянскія часы пакланяліся і прыпісвалі звышнатуральныя ўласцівасці, будавалі капліцы, да іх хадзілі хрэсным ходам (гл. таксама *Барысавы камяні*). Імя галоўнага міфалагічнага персанажа хрысц. рэлігіі (бога), а таксама імёны хрысц. святых устаўлялі ў замовы. Некаторыя міфалагічныя вобразы дахрысц. рэлігіі (вобраз чорта) пад уплывам царквы сталі разглядацца як неабходныя антыподы пэўных вобразаў хрысц. міфалогіі (вобраза бога). Такім чынам, характэрнай рысай бытавых Р. в. на Беларусі ў перыяд феадалізму быў сінкрэтызм — перапляценне хрысціянскіх рэліг. уяўленняў з больш старажытнымі мясцовымі дахрысціянскімі. Сінкрэтычныя рысы ў пабыце мелі ўсе кірункі хрысціянства: праваслаўе, што было пашырана з канца 10 ст. на большай частцы Беларусі, каталіцызм, што распаўсюдзіўся пераважна ў познім сярэднявеччы пераважна ў яе заходняй частцы, уніяцтва, якое бытавала на Беларусі з 1596 па 1839, розныя формы пратэстантызму (пераважна кальвінізм), што ў 16—17 ст. бытаваў пераважна сярод прывілеяваных і заможных саслоўяў Беларусі. У перыяд феадалізму на Беларусі з'явіліся таксама ісламскія (сярод татарскай этнічнай групы; гл. *Татары*) і іудаісцкія (сярод яўрэйскай; гл. *Яўрэі*) Р. в. Рэлігійная сітуацыя, што склалася на Беларусі ў познім сярэднявеччы, існавала без значных змен да канца 19 — пач. 20 ст. Усталяванне капіталізму на Беларусі — асноўная прычына трансфармацыі Р. в.: знікла большая частка дахрысціянскіх уяўленняў. Найбольш хутка адміралі або трацілі рэліг. значэнне вобразы нар. дэманалогіі. Большасць насельніцтва, асабліва моладзь, перастала верыць у рэальнасць лесуна, вадзяніка, русалкі і інш. Фантастычныя істоты ў далейшым захоўваліся толькі ў фальклоры. Некаторыя традыцыйныя абрадавыя дзеянні (ваджэнне «казы», абрад «засявання», сустрэчы вясны і інш.) змянілі сваё значэнне і сталі амаль што забавамі, дзеяннямі, з якімі ўжо не звязвалі рэлігійных уяўленняў, але лічылі ўсё ж неабходнымі. У сувязі са знікненнем страху перад шкоднай магіяй, адміраннем яе абрадаў зніклі забабоны, звязаныя з уяўленнямі пра чараўнікоў. Больш доўга захоўваліся ў побыце (асабліва сялян) абрады лячэбнай магіі, што тлумачылася марудным развіццём аховы здароўя; уяўленні пра тое, што некаторыя прадметы і з'явы (камяні, крыніцы, «нагавораная» вада) маюць звышнатуральныя ўласцівасці (вылечваюць хваробы), падтрымліваліся хрысціянскай царквою. Капіталізм садзейнічаў і распаўсюджванню на Беларусі хрысціянскіх сект баптыстаў, адвентыстаў і інш., якія з'яўляюцца больш вытанчанай разнавіднасцю хрысціянскай рэлігіі. Пад уплывам новых сацыяльных умоў у капіталістычную эпоху пачаўся працэс вызвалення працоўных ад рэлігіі. Перш за ўсё ён закрануў перадавых свядомых рабочых, якія ўспрымалі ідэі марксізму — паслядоўнага матэрыялістычнага светапогляду. Атэістычныя ідэі падтрымлівала і перадавая частка інтэлігенцыі, якая актыўна ўдзельнічала ў барацьбе за звяржэнне капіталістычнага ладу; на атэістычныя пазіцыі паступова пераходзілі і прадстаўнікі сялянства. Пралетарскі атэізм — важная перадумова, якая садзейнічала вызваленню ад рэлігіі шырокіх нар. мас у савецкі час. У выніку будаўніцтва і развіцця сацыялізму на Беларусі большасць яе насельніцтва адышла ад рэлігіі.

*М. Ф. Піліпенка.*



Рэшата.

**«РЭ́ПКА»**, гульня, традыцыйны танец. Шматлікія варыянты гульні сталі дзіцячымі. Галоўны матыў яе — выцягванне дзіцяці, «рэпкі», з агульнага рада. У танцы «Р.» (музычны памер $^2/_4$) выканаўцы ішлі ланцужком адзін за адным, паклаўшы рукі на плечы або талію таго, хто стаяў наперадзе.

Асноўныя рухі: выстаўленне нагі па пятку, якое чаргавалася з трайным прытупам. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Свіслацкім раёне. *Ю. М. Чурко.*

**РЭСПУБЛІКА́НСКІ МУЗЕ́Й АТЭІ́ЗМУ І ГІСТО́РЫІ РЭЛІ́ГІІ.** Адкрыты ў Гродне 15.1.1985. Мае 15 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 2200 м$^2$), каля 25 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988). Размешчаны ў былым Гродзенскім манастыры базыльянак, помніку архітэктуры 18 ст. Экспазіцыі «Гісторыя рэлігіі і атэізму на Беларусі», «Ватыкан і сучаснасць» паказваюць месца і ролю рэлігіі і царквы на Беларусі, вальнадумства, антыклерыкалізм і атэізм бел. народа, адлюстроўваюць сутнасць сучаснай ідэалогіі і палітыкі Ватыкана. У музеі зберагаюцца рукапісы, кнігі, карціны, скульптура, графіка, тканіны, культавыя прадметы, археалагічныя, этнагр., нумізматычныя калекцыі, у т. л. калекцыі адзення з Брэстчыны, Віцебшчыны, Гродзеншчыны, Магілёўшчыны (андаракі, кабаты, кашулі, фартухі, наміткі, сарочкі, галаўныя ўборы, світкі, касцюм свацці); керамікі (глякі, спарышы, збаны, міскі, вазоны, гаршкі, макатры, кубкі, формы для цеста, цацкі); тканін (дываны, радзюжкі, ручнікі, маткі, настольнікі, паясы, сурвэткі, посцілкі); вырабы з саломы (кошыкі, капелюшы, кублы, шкатулкі, саламяны посуд); калекцыі пісанак. Экспануюцца старадрукі 17—18 ст. з гравюрамі, кніга Missale (1586), Евангелле (1634), абразы «Святая сям'я» Г. Хаецкага і «Святая Тэкля» (17 ст.), драўляныя скульптуры апосталаў Пятра і Паўла (18 ст.), арнаты са слуцкімі паясамі (18 ст.), вадаліў — помнік прыкладнога мастацтва 12—13 ст. У музеі зберагаюцца матэрыялы пра сав. абрады і традыцыі. Адлюстравана развіццё касманаўтыкі ў СССР. Філіял — Гродзенская Барысаглебская царква. *А. Г. Зароўская.*

**РЭ́ЧЫЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1952. Адкрыты 5.11.1954. Мае 3 экспазіцыйныя залы (пл. экспазіцыі 325 м$^2$), 15 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988). Аддзелы: гісторыі дасав. перыяду, гісторыі сав. грамадства, прыроды. У экспазіцыі археалагічная калекцыя з помнікаў мілаградскай культуры, абразкі 12, 17 ст. У этнагр. калекцыі прылады працы і побыту сялян 19 — пач. 20 ст. (кросны, бароны, граблі, косы, вілы, цапы, церніцы, траплы, ступа, дзяжа, бойка, жлукта, лапаўка, ручнікі-набожнікі, посцілкі і інш.), нац. адзенне (жаночыя кашулі, аздобленыя вышыўкай, андаракі, фартухі, камізэлька), матэрыялы пра рэв. рух у краі, грамадз. і Вял. Айч. вайны, развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў пасляваенны час. *І. А. Шафір.*

**РЭ́ШАТА,** прылада для прасейвання мукі ці праве́йвання зерня. Абечак рабілі звычайна з сухога лубу, дно — з рагожнай ці валасяной сеткі. У наш час абечак робяць з фанеры, дно — з металічнай сеткі.

# С

**САБАЛЕ́НКА** Эла Раманаўна (н. 26.9.1936, г. Гомель), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. навук (1967). Чл. КПСС з 1974. Скончыла БДУ (1959). З 1960 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1970 старшы навуковы супрацоўнік), з 1977 у Мінскім ін-це культуры. Даследуе традыцыйную матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, сямейны побыт, сучасныя этнічныя працэсы. Аўтар манаграфіі «Этнаграфічная спадчына Якуба Коласа» (1969), раздзела «Беларусы» («Этнаграфія ўсходніх славян», 1987), раздзелаў у калектыўных манаграфіях «Беларускае народнае жыллё» (1973), «Змены ў побыце і культуры сельскага насельніцтва Беларусі» (1976), «Этнічныя працэсы і лад жыцця» (1980), адна з аўтараў раздзела «Беларусь» у кн. «Краіны і народы» (Савецкі Саюз. Рэспублікі Прыбалтыкі. Беларусь. Украіна. Малдавія, 1984). *Л. А. Суднік.*

**САБАЛЕ́ЎСКІ** Аляксей Іванавіч [26.12.1856 (7.1.1857), Масква — 24.5. 1929], рускі савецкі мовазнавец. Акадэмік (1900). Скончыў Маскоўскі ун-т (1878). Праф. Кіеўскага (1884) і Пецярбургскага (1888—1908), Маскоўскага (1918) ун-таў. Даследаваў праблемы параўнальна-гіст., слав. і рускага мовазнаўства, стараж. слав. пісьменнасці і палеаграфіі. Адзін з заснавальнікаў гіст. дыялекталогіі рускай, бел. і ўкр. моў. Аўтар прац «Нарыс рускай дыялекталогіі» (1892), «Вопыт рускай дыялекталогіі. Гаворкі велікарускія і беларускія» (1897), «Матэрыялы і даследаванні ў галіне славянскай філалогіі і археалогіі» (1910) і інш. Пры вывучэнні гіст. граматыкі, фанетыкі і лексікалогіі і рускай мовы шырока выкарыстоўваў матэрыялы старабел. і стараўкр. пісьмовых помнікаў і нар. гаворак. Работы па дыялекталогіі і тапаніміцы цесна звязаны з даследаваннямі па гіст. этнаграфіі. Вывучаў пытанні гісторыі матэрыяльнай культуры, нар. побыту, фальклору, вераванні і абрады ўсх. славян. Выдаў «Велікарускія народныя песні» (т. 1—7, 1895—1902). *Г. К. Ціванова.*

**«САВЕ́ЦКАЯ БЕЛАРУ́СЬ»,** штодзённая грамадска-палітычная газета. Выдавалася на бел. мове з 1.2.1920 да 21.3.1933, спачатку ў Смаленску, з 15.8.1920 у Мінску. Орган ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, Рэўкома БССР (з 15.8.1920), ЦВК і СНК БССР (з 16.1.1930). Адказныя рэдактары ў розныя гады: С. Булат, З. Жылуновіч (Ц. Гартны), У. Ігнатоўскі, М. Кудзелька (М. Чарот) і інш. Газета адлюстроўвала працэсы станаўлення бел. сав. дзяржаўнасці, развіццё эканомікі і культуры, літаратурна-мастацкі рух у БССР 1920— пач. 30-х г. На яе старонках сталеў талент і шліфавалася майстэрства маладых бел. пісьменнікаў — М. Чарота, К. Чорнага, У. Дубоўкі, А. Бабарэкі, Я. Пушчы, К. Крапівы, А. Дудара, М. Зарэцкага, А. Вольнага, П. Труса, П. Броўкі, П. Глебкі, М. Лынькова, П. Галавача, А. Звонака, Л. Родзевіча, А. Куляшова, М. Лужаніна, Т. Кляшторнага, В. Каваля, Б. Мікуліча, С. Хурсіка і інш. Друкавала творы Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, А. Гурло, Я. Журбы, артыкулы М. Гарэцкага, І. Замоціна і інш. літаратуразнаўцаў, публіцыстаў і краязнаўцаў. Газета асвятляла гісторыю і тагачаснае становішча бел. нацыянальнай культуры, этнаграфіі, садзейнічала развіццю краязнаўства, адраджэнню нацыянальнай мовы, літаратуры і інш. відаў мастацтва. У матэрыялах падкрэслівалася, што арыгінальную школу мастацтва можна стварыць толькі на аснове творчага засваення традыцый нар. культуры. У арт. «Звярніце ўвагу на народнае мастацтва», «Наш тэатр», «Калядy», «Думкі перад Вялікаднем», «На Сёмуху», «Дзесяць дзён падарожжа па Беларусі», «З этнаграфіі ў стылёвае мастацтва» З. Бядулі паказвалася станаўленне новага сацыялістычнага побыту ў бел. вёсцы, даследаваліся фальклорна-этнагр. вытокі бел. мастацкай культуры. Праблемам адраджэння нар. песні ў сацыялістычным грамадстве, інш. пытанням бел. этнамузыказнаўства прысвечаны арт. «Беларуская музыка», «Кампазітар-этнограф Я. В. Прохараў», «Збіральнік беларускай песні А. А. Грыневіч» Ю. Дрэйзіна, «Крык уміраючай песні» Грыневіча, шэраг допісаў, пераважна селькораў. У арт. «Шукайце народнае мастацтва» (28.6.1927) М. Шчакаціхін заклікаў даследчыкаў збіраць, сістэматызаваць і даследаваць творы бел. прыкладнога мастацтва. Газета змяшчала дыскусійныя артыкулы дзеячаў нацыянальнай культуры пра аптымальныя суадносіны фальклорна-этнагр. традыцый і мастацкага прафесіяналізму ў станаўленні бел. сав. тэатральнага, опернага, музычнага і харэаграфічнага мастацтваў [«Пара сказаць «Бывайце здаровы», «Лявоніха» і цымбалы» З. Жылуновіча, «Мастацкая праца на вёсцы» Т. Кулешы (Я. Дылы), «Пра «Лявоніху» і цымбалы» А. Лазоўскага і інш.]. У 1930—33 ва ўмовах незаконных рэпрэсій, пашырэння вульгарна-сацыялагічнай крытыкі са старонак «С. Б.» зніклі аб'ектыўныя матэрыялы пра нацыянальную этнагр. культуру. Газета выдавала літаратурныя дадаткі — часопісы «Радавая рунь»

(1924), «Чырвоная краіна» (1927, 1929) і інш. *У. М. Конан.*

**«САВЕ́ЦКАЯ КРАІ́НА»**, навукова-папулярны краязнаўчы часопіс. Орган *Цэнтральнага бюро краязнаўства.* Выдаваўся на бел. мове ў Мінску з кастрычніка 1925 да студзеня 1933. Да кастр. 1930 наз. *«Наш край».* Асвятляў пытанні гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы, змяшчаў пастановы краязнаўчых з'ездаў і канферэнцый, інфармацыю пра дзейнасць Цэнтр. бюро краязнаўства, краязнаўчых т-ваў і гурткоў, навуковых устаноў Інбелкульта, АН БССР. Рэцэнзаваў краязнаўчыя выданні, змяшчаў бібліяграфічныя спісы. Друкаваў метадычныя матэрыялы («Праграма-інструкцыя для збіральнікаў беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці», 1925, № 1, складальнік А. Грыневіч; праграмы збірання вуснай народнай творчасці, 1925, № 2—3; 1928, № 4; 1930, № 4) і інш. Вялікая колькасць артыкулаў прысвечана апісанню раёнаў, сельсаветаў, мястэчак, вёсак, гісторыі фабрык і заводаў, характарыстыцы нар. жылля, адзення, ежы, прылад працы, абрадаў і звычаяў. Сярод іх артыкулы З. К. Магілеўчыка, В. А. Самцэвіча, М. І. Каспяровіча, М. Тамковіча, Я. Бараноўскага, С. Шаўковіча і інш. Бел. нар. дэкаратыўна-прыкладному мастацтву прысвечаны арт. «Крашаніна, набойка і выбойка» Дз. Даўгялы (1926, № 6—7). Музейная справа асвятлялася ў арт. «Пяцігоддзе Беларускага Дзяржаўнага музея» П. Харламповіча (1927, № 1), «Гомельскі Дзяржаўны культурна-гістарычны музей» А. Мікалаева (1928, № 12), «Віленскі беларускі музей» М. Каспяровіча (1929, № 3), «Аб музеях БССР да XV гадавіны Кастрычніка» С. Рак-Міхайлоўскага (1932, № 10). *У. У. Грамовіч.*

**САВЕ́ЦКАЯ ШКО́ЛА** ў этнаграфіі. Марксісцкая метадалогія ў айчыннай этнаграфіі, у т. л. і на Беларусі, усталявалася ў даследаваннях 1930—40-х г. Ядро гэтай метадалогіі — дыялектыка-матэрыялістычны метад, які разглядае ўсе гіст. з'явы, культуру этнасаў з матэрыялістычных пазіцый, улічвае значэнне вытворчай дзейнасці людзей і вытворчых адносін, што вызначаюць развіццё інш. сфер чалавечай дзейнасці, у т. л. і культуры, дае магчымасць вывучаць карэнныя, якасныя пераўтварэнні культуры народаў, усяго іх спосабу жыцця на пэўных стадыях гіст. развіцця. Важнае значэнне для сав. этнаграфіі мае марксісцкае вучэнне пра грамадска-эканам. фармацыі, матэрыялістычны погляд на гісторыю не паслядоўную іх змену. Савецкая этнаграфія аддае належную ўвагу сацыяльным адрозненням у культуры этнасу на стадыі класавага грамадства, ацэньвае ўсе з'явы культуры з пазіцый рабочага класа. Яна актыўна садзейнічае развіццю сацыяліст. грамадства, сацыяльнаму прагрэсу чалавецтва, захаванню міру, пашырэнню гуманізму, дэмакратыі. С. ш. робіць важкі ўклад у сусветную этнаграфію. Найбольш значныя яе дасягненні — распрацоўка тэорыі этнасу, гісторыі сусветнай этнаграфіі (айчыннай і замежнай), этнагенезу і гісторыі традыцыйнай культуры ўсіх народаў свету са старажытных часоў да нашых дзён, гісторыі рэлігіі, сучасных этнічных працэсаў. На Беларусі, як і ва ўсёй краіне, марксісцкая этнагр. навука асноўную ўвагу аддае вывучэнню гісторыі бел. этнаграфіі (гл. *Гістарыяграфія этнаграфіі*), гісторыі традыцыйнай гаспадаркі (земляробства, рамястваў, промыслаў) і матэрыяльнай культуры, гісторыі грамадскага і сямейнага побыту, традыцыйнай духоўнай культуры; вывучае ўзнікненне і развіццё сацыяліст. ладу жыцця на Беларусі, сучасныя этнічныя і культурна-бытавыя працэсы ў БССР. *М. Ф. Піліпенка.*



Сак.

**САЖ**, плеценая з лазы ёмістасць для захоўвання кілбас, мяса. У ім прасушвалі таксама сыры, трымалі грыбы, зёлкі. У плане круглы або авальны, меў паўсферычную ці выцягнутую паўсферычную форму, часам быў падобны на два вял. *кашы.* У верхняй ці ніжняй частцы (у дне) рабілі прамавугольнае ці паўкруглае акенца з адкаведнымі яму дзверцамі. Часта меў перагародку. Вышыня 56—80, дыяметр 50—80 см. Падвешваўся з дапамогай металічнага кручка ці драўлянага шаста на гары, у каморы, сенцах. Меў добрую вентыляцыю, таму ў ім надзейна захоўваліся прадукты. Найбольш пашыраны ў зах. частцы Беларусі. *А. Ф. Літвіновіч.*

**СА́ЖАЛКА**, штучнае вадасховішча невялікіх памераў. С. капаюць на роўным нізінным месцы ці ўтвараюць, перагароджваючы плацінай рэчышча невялікай рачулкі, ручая, ірва, лагчыны. Размяшчаны ў асноўным на напаўненне талымі веснавымі водамі. Лішняя вада ў С., пабудаваных на рачулках і ручаях, сходзіць праз вадавыпускі. У сельскай мясцовасці С. служыць у асноўным для арашэння, вадапою, разводзення рыбы, вадаплаўнай птушкі і забеспячэння вадою розных гаспадарчых патрэб. У гарадах і прыгарадных зонах адпачынку С. выконваюць ролю элементаў ландшафтнай архітэктуры. З даўніх часоў у розных рэгіёнах Беларусі, асабліва на Падняпроўі, С.-копанкі выкарыстоўвалі для мачэння канапель, ільну. Такія С. былі значна меншых памераў (прыкладна 3×4 м). Каб сцены не разбураліся і не заплывалі, іх атынкоўвалі ці ўмацоўвалі зрубам. Восенню абмалочаныя снапы канапель, ільну замочвалі ў С., прыціскалі на некалькі тыдняў драўляным гнётам, пакуль валакно не пачне аддзяляцца ад сцябла, пасля чаго снапы выцягвалі, сушылі і мялі на церніцах. *У. С. Гуркоў.*

**СА́ЖАНЬ**, адзінка вымярэння даўжыні ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага (раўняўся 3 *локцям* — 194,8 см) і ў Расіі (213,36 см). Часам ужывалася



Саж.

як адзінка вымярэння аб'ёму (сажань дроў).

**САК**, традыцыйная рыбалоўная прылада; стаўная пастка ў выглядзе сеткавага мяшка, прывязанага да драўлянага абруча ў форме паўкруга, да якога пасярэдзіне прымацоўвалі доўгую ручку. Распраўлены ў вадзе С. нагадваў конус, падзелены па даўжыні папалам. Рыбачылі С. ўброд і з лодкі. Адкрытай часткай падводзілі да куста ці да травы і заганялі ў яго рыбу шастом або нагамі. Выкарыстоўвалі пераважна для лоўлі рыбы ў рэках. Вядомы па ўсёй Беларусі.

**САКАЛЕ́ННЕ**, від вышыўкі, якую выконваюць па сетцы, утворанай выцягваннем пэўнай колькасці нітак асновы і ўтку. Называюць таксама гаптаванне, расшыванне, строчка. Бытавала пераважна на У Беларусі. У канцы 19 — пач. 20 ст. найбольш распаўсюджа-

най была вышыўка перавіццю: сетку абшывалі (перавівалі) белымі ніткамі для трываласці, а потым вышывалі насцілам. Яго звычайна выконвалі белымі ніткамі, утвараючы буйны стылізаваны раслінны, арнітаморфны або геаметрычны арнамент (упрыгожвалі канцы ручнікоў накшталт карункаў). Найбольш стараж. па паходжанню была слань — вышыўка па неабвітай сетцы цыравальным швом або каляровымі ніткамі (сустракалася і спалучэнне слані і каляровай перавіці). Такой вышыўкай аздаблялі ручнікі, падолы фартухоў. На Магілёўшчыне і Гомельшчыне ручнікі нярэдка ўпрыгожвалі строчкай-выразамі, якую выконвалі па сетцы з буйнымі вочкамі. Слупкі такой сеткі з цотнай колькасцю ніток перавівалі шчыльным насцілам і дадаткова зацягвалі атрыманыя ячэі «павуцінкамі». Блізкая да С. і вышыўка насцілам па плеценай, тканай ці вязанай сетцы, што ўжывалася для вырабу абрусаў, посцілак, сурвэтак.

*В. Я. Фадзеева.*

**САКАЛО́Ў** Уладзімір Глебавіч, беларускі этнограф і фалькларыст 2-й пал. 19 ст. Чл. Мінскага губернскага статыстычнага камітэта, Рускага геагр. т-ва. З 1863 жыў у Мінскай губ., потым працаваў у Тураве, Мазыры міравым пасрэднікам, надворным саветнікам, міравым суддзёю. Друкаваўся у «Минских губернских ведомостях», «Минских епархиальных ведомостях» і інш. Аўтар артыкулаў: «Нарысы норавау Барысаўскага павета», «Нарысы народных святкаванняў і маленняў на Палессі», «Палессе: Паездка на возера Князь-Жыд», «Ліст з Палесся» (усе 1869), «Тураўская каптата св. Іаану Хрысціцелю» (1879), «Дзе мошчы св. Кірылы Тураўскага?» (1884). Адзін з першых запісаў легенды пра Князь-возера. Рабіў этнагр. замалёўкі.

*А. Ю. Лозка.*

**САЛАВЕ́Й** Лія Мацвееўна (н. 1.9.1934, в. Навасёлкі Мядзельскага р-на), беларускі савецкі фалькларыст. Канд. філал. навук (1974). Чл. КПСС з 1963. Скончыла Мінскі педагагічны ін-т (1960). З 1970 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1977 старшы навуковы супрацоўнік). Даследуе бел. вуснапаэтычную творчасць (песенныя жанры) — нар. балады, абрадавую і пазаабрадавую вусную паэзію, узаемасувязі нар. вуснапаэтычнай творчасці слав. народаў. Аўтар манаграфіі «Беларуская народная балада» (1978), складальнік кнігі «Балады» (кн. 1—2, 1977—78; аўтар уступнага артыкула і каментарыяў). Удзельнічала ў складанні кніг «Веснавыя песні» (1979) і «Валачобныя песні» (1980) са зводу «Беларуская народная творчасць». За ўдзел у складанні зводу Дзярж. прэмія БССР 1986.

*В. С. Семенякоў.*

**САЛАДЗІ́ЛЬНЯ,** гаспадарчае збудаванне, у якім прарошчвалі і сушылі зерне на солад (у інвентарах сустракаецца і назва саладоўня). У 16—19 ст. будавалі пераважна пры *броварах*, былі і асобныя драўляныя прамавугольныя ў плане С., накрытыя дранкай ці саломай. Інвентары апісваюць С. ў панскіх сядзібах і фальварках. Традыцыйная С. нагадвала 3-камерную хату, дзе абапал сянец размяшчаліся памяшканне для прыгатавання рошчыны (у ім знаходзіліся карыты для замочвання і прарошчвання зерня; тут была і курная печ) і озніца (тып сушні, дзе высушвалі рошчыну; звычайна дзялілася рэдкім жардзяным памостам на 2 ярусы: у першым стаяла курная печ, у 2-м на памосце клалі рошчыну; былі таксама сумешчаныя озніцы тыпу *ёўні*). У рошчыннае памяшканне з двара (ад калодзежа ці вадаёма) ішлі 2 латакі: па адным падавалі свежую, па другім адводзілі адпрацаваную ваду (в. Чаравацічы каля Кобрына, інв. 1597). Існавалі і 2-камерныя С. з озніцамі ў сенцах (Смалявічы, інв. 1621), а таксама 2-павярховыя С. з рошчынным памяшканнем у першым і озніцай у другім паверсе (сядзіба Чалевічы пад Слуцкам, інв. 1644). Каралеўскі двор у Пружанах у 1597 меў С. складанай 5-камернай планіроўкі (рошчынная хата, озніца, сенцы, камора, жылы пакой работніка).

*Ю. А. Якімовіч.*



**Сакаленне** (фрагмент ручніка). Вёска Падлужжа Чачэрскага раёна. 1920-я г.

**САЛАДУ́ХА,** кісла-салодкая рэдкаватая мучная страва. Называлі таксама путра. Жыта замочвалі на суткі (казалі: «жыта росцяць ад пары да пары»), потым сушылі і малолі ў жорнах; разводзілі вадой у гаршку, прывальвалі і вылівалі ў дзежку закісаць. Як укісне, елі з бульбай. Часцей С. рабілі з жытняй (не соладавай) мукі. Тады яе даўжэй парылі, каб лепш усаладжала, або дадавалі мёд (Віцебшчына), цукар (Гродзеншчына, Міншчына). Месцамі (Полаччына, Гродзеншчына) С. разводзілі таксама з грэцкай або з сумесі жытняй (2 часткі) і грэцкай (1 частка) мукі. У Ашмянскім р-не ў закалочаную жытнюю муку клалі мёд (лічылася, што ён асалоджвае муку). На Мядзельшчыне, Пастаўшчыне С. называлі ўсаладжалую закалоту з жытняй мукі, з якой разводзілі *раўгеню*. З С. рабілі квас, на ёй некаторыя рашчынялі хлеб. Самы старадаўні від С. захаваўся у Мёрскім, Шчучынскім, Столінскім р-нах, дзе яе да нядаўніх часоў гатавалі з жытняга соладу.

*Г. Ф. Вештарт.*

**САЛАМЯ́НЫ ВУ́ЛЕЙ,** плецены або зроблены са спрасаванай саломы вулей. Лакальныя назвы саламянік, каробка. Плялі на калодцы з недаспелай жытняй саломы, скручанай у жгуты і пераплеценай хваёвым карэннем, ляшчынавымі ці лазовымі дубцамі. Зверху вулей абмазвалі глінай, у якую дамешвалі ячную мякіну, вапну, цёртую цэглу (каб пчолы пазнавалі сваё жытло). Супраць вільгаці верх заціралі рачным мулам.





**Сакаленне** (строчка-выразы). Фрагмент ручніка. Рагачоўскі раён.

**Сакаленне.** Вышыўка насцілам (фрагмент падзора). Веткаўскі раён.

Знутры вулей пчолы самі апрацоўвалі прапалісам. Салома была танным матэрыялам і захоўвала ў вуллі ўстойлівы тэмпературны рэжым. Па спосабу фарміравання гнязда і размяшчэння сотаў С. в. не адрозніваўся ад калоднага. Бытавалі дзве формы: стаякі, што нагадвалі калоду, пакрытую конуснай стрэшкай (капялюх), лежакі — куфар з пукатым векам. У 2-й пал. 18 ст. на пасецы ў в. Шчорсы Навагрудскага пав. пчол трымалі ў разборных С. в. (з дзвюх частак, злучаных драўлянымі спіцамі; вынаходнік І. Л. Храптовіч), што дазваляла павялічваць аб'ём гнязда, уплываць на працэс раення, фарміраваць адводкі, выводзіць маладых матак. С. в. даваў за сезон да 4 пудоў мёду. Драўляныя рамовыя вуллі






Саламяныя вуллі: 1, 2 — стаякі; 3 — шапка і надстаўка да саламянага стаяка.

Салігорскі краязнаўчы музей. Фрагмент экспазіцыі.

таксама спачатку рабілі з прасаванай саломы, драўніну выкарыстоўвалі толькі на каркас. С. в. былі пашыраны ў паўд.-зах. раёнах Беларусі; спарадычна сустракаліся да пач 20 ст. і вельмі рэдка — у наш час. *С. Ф. Цярохін.*

**САЛІВО́Н** Інэса Іванаўна (н. 24.12.1937, г. Барысаў), беларускі савецкі антраполаг. Канд. гіст. навук (1970). Скончыла Мінскі медыцынскі ін-т (1960). У 1960—65 працавала ўрачом на Мінскім камвольным камбінаце. З 1968 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1973 старшы навуковы супрацоўнік). Вывучае асноўныя заканамернасці фарміравання фізічнага тыпу стараж. і сучаснага насельніцтва Беларусі ў свеце этнагенетычных працэсаў і адаптацыі арганізма да розных экалагічных умоў. У 1966—71 пад яе кіраўніцтвам праводзіліся раскопкі позніх (18 — пач. 19 ст.) сельскіх могільнікаў на Беларусі. Складзена калекцыя астэалагічных матэрыялаў па насельніцтву таго перыяду. Параўнанне іх з апублікаванымі рознымі аўтарамі данымі пра насельніцтва 10—14 ст. дазволіла ўстанавіць зменлівасць з цягам часу фізічнага тыпу насельніцтва на Беларусі: на працягу 2-га тысячагоддзя н. э. паменшылася масіўнасць шкілета, а галава набыла больш круглую форму. З 1972 у складзе комплексных экспедыцый ІМЭФ АН БССР даследуе тэрытарыяльныя і ўзроставыя асаблівасці дарослага насельніцтва і вучняў школ, ажыццяўляе вымярэнні і якасныя характарыстыкі розных прыкмет будовы цела. Аўтар артыкулаў і сааўтар манаграфій «Нарысы па антрапалогіі Беларусі» (1976), «Антрапалогія Беларускага Палесся» (1978), «Біялагічнае і сацыяльнае ў фарміраванні антрапалагічных асаблівасцей» (1981), «Экалагічныя аспекты ў антрапалагічных даследаваннях на тэрыторыі БССР» (1982). *В. С. Семянкоў.*

**САЛІГО́РСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1976 у Салігорску, адкрыты 11.8.1984. Пл. экспазіцыі 310 $м^2$, 5,5 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988). Аддзелы: этнаграфіі, прыроды, сав. гісторыі краю. У этнагр. калекцыі прылады працы і побыту сялян (плугі, плеценая барана, жорны, грэбень для часання лёну, ручнікі, настольнікі, посцілкі і інш.), бел. нар. адзенне канца 19—20 ст. (жаночыя кашулі і мужчынскія манішкі, якія аздоблены вышыўкай, спадніцы, гарсэты, фартухі, хусткі, наміткі, суконная бурка і інш.), музычныя інструменты (ліра колавая і інш.). У музеі матэрыялы пра Кастр. рэвалюцыю і ўстанаўленне Сав. улады, грамадз. і Айч. войны, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі, культуры, асветы ў краі. У цэнтр. зале — экспазіцыя па гісторыі Салігорска. *Л. І. Бойка.*

**САЛО́ДКАЯ ГАРЭ́ЛКА,** вясельнае абрадавае піцво, якім частавалі сваякоў і бацькоў маладой за яе цнатлівасць, маральную чысціню. Называлі яшчэ чырвоная гарэлка, калінкі, рожкі. Пасля шлюбнай ночы малады з дружкам ехалі з бутэлькай С. г. да бацькоў маладой «на падзяку». С. г. рыхтавалі з падсалоджанай мёдам або цукрам і падфарбаванай ягадамі чырвонага колеру гарэлкі. На Пн Беларусі і ў Латгаліі С. г. варылі адмысловым спосабам у гліняным гаршку з рознымі пахучымі каранямі, кмінам, мёдам або цукрам на прыпечку. Бутэльку з С. г. затыкалі галінкамі каліны і сцяблінкамі аўса, абвязвалі каляровым поясам або чырвонай стужкай і загортвалі ў вышыты ручнік. Цешча, атрымаўшы яе, частавала маладога яешняй, а сваіх



Саламяны вулей-ляжак.





Саламяныя пляцёнкі: елачка, зубатка, рагожка і вітая пляцёнка.

**Саломапляценне.** Посуд з саломы і лазы.

родных — С. г. У некаторых рэгіёнах С. г. бралі з сабой бацькі маладой, калі ехалі на *пярэзвы*. Малады і яго бацькі частавалі С. г. таксама *прыданых* маладой і ўсіх прысутных. *Л. А. Малаш.*

**САЛО́ДКАЯ КА́ША,** вясельная абрадавая страва, якой частавалі сваякоў і бацькоў маладой за яе цнатлівасць, маральную чысціню. С. к. падавалі на апошні пачастунак прыданым маладой, у якім удзельнічалі і яе бацькі. У гаршчок з С. к., абвязаны каснікам, утыкалі кветку, якая разам з кашай сімвалізавала цнатлівасць маладой. Паколькі гаршчок быў невялікі, кожны з прысутных атрымліваў крышку С. к. У Мазырскім і некаторых інш. паветах перад ад'ездам прыданых на покуці ставілі гаршчок крута зваранай прасянай кашы з мёдам, які білі пірагом да таго часу, пакуль ён не расколецца. Затым С. к. разразалі на кавалкі для кожнага стала. Рытуал падзелу С. к. дайшоў са стараж. часоў і папярэднічаў абраду падзелу *каравая* (у в. Міхалкава Мазырскага пав., напр., ён суправаджаўся тымі ж рытуальнымі дзеяннямі і слоўнымі формуламі, што і падзел каравая). Варыянт гэтага рытуалу існаваў на Мсціслаўшчыне, дзе маладых, калі ў яго хату прыязджала маладая, клаў у рэшата каравай і гаршчок з С. к., рэшата накрываў хусткай і ставіў на галаву маладой. Яна здымала рэшата, брала некалькі лыжак кашы і кідала на печ. У наш час рытуал падзелу С. к. мадыфікаваўся. *Л. А. Малаш.*

**«САЛО́МА»,** гульнёвы карагод. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. Верагодна, назва паходзіць ад гульні, якая першапачаткова ўваходзіла ў карагод: адзін з выканаўцаў трымаў у зубах саломінку і, цалуючыся, перадаваў дзяўчыне, якая яму спадабалася. Карагод складаецца з дзвюх частак. Спачатку ўсе ўдзельнікі выбіралі пару — «мужа» і «жонку», якая станавілася ў цэнтры круга. Астатнія танцоры, узяўшыся за рукі, рухаліся па крузе і спявалі песню пра тое, як жонка не любіць мужа і г. д. Пара, якая стаяла ў крузе, разыгрывала тэкст песні, а калі песня канчалася, станавіліся ў агульны круг. Потым пачынаўся другі, больш жвавы карагод. Усе выканаўцы станавіліся парамі (твар у твар) і рабілі шэн. Калі пары ў танцы сустракаліся, хлопцы мяняліся партнёркамі і цалаваліся з імі. Усе выканаўцы прыпявалі: «Ляцелі сінічкі//Ростам невялічкі.//Чарнявая мая, чарнаглазая//Стала абнімацца,//Крэпка цалавацца.//Чарнявая мая, чарнаглазая». Карагод зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Быхаўскім раёне. *Г. К. Каляда.*

**САЛОМАПЛЯЦЕ́ННЕ,** разнавіднасць *пляцення*, від *народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва*. У мінулым вядома ўсім земляробчым народам Еўропы. Шырокае распаўсюджанне атрымала і на Беларусі. Для пляцення выкарыстоўвалі пераважна жытнюю салому з доўгім, тонкім і роўным сцяблом (падыходзіла салома толькі ўручную зжатага і абмалочанага жыта — выкалатка). Сухую салому папярэдне размочвалі ў вадзе, пасля чаго яна станавілася мяккай і эластычнай; выкарыстоўвалі цэлае сцябло, саломіну без каленец або саламяную стужку. Вылучаюць наступныя тэхнікі С.: спіральнае і прамое пляценне, пляценне з плоскіх і аб'ёмных пляцёнак. Найбольш пашыранай была тэхніка спіральнага пляцення са жгутоў саломы і прут-



**Саломапляценне.** Саламянкі. Зімовы абутак, плецены з саломы. Вёска Каазлы Нясвіжскага раёна. Пачатак. 20 ст.

коў лазы, каранёў і льняных нітак (на Палессі называлася шыццё лыкам). Такім спосабам выраблялі вялікія саламяныя карабы, шыяны з векам для захавання збожжа, мукі, меншыя па памерах кублы і карабы для круп, адзення, гарцы, якія служылі мерай збожжа, сявенькі (на Палессі выплятані навет невялікія збанкі для ягад). Плоскія пляцёнкі выкарыстоўвалі як загатоўкі (паўфабрыкат) для саламяных брылёў, карзінак, кашоў. Такія пляцёнкі з 4 (зубатка) і 4, 7, 11 саломінак (елачка) сшывалі льнянымі ніткамі або конскім воласам. Аб'ёмнымі пляцёнкамі выплятані пераважна дэкаратыўныя прадметы. У канцы 18 — пач. 19 ст. гэтай тэхнікай С. рабілі саламянае аздабленне царкоўных іканастасаў — да нашых дзён дайшлі унікальныя ўзоры саламяных царскіх варот з царквау в. Лемяшэвічы Пінскага, Вавулічы Драгічынскага р-наў і Гродзенскага Барысаглебскага манастыра. Такой жа тэхнікай аб'ёмнага пляцення ў выглядзе ромбаў і вітага жгута з 4—5 саломак карысталіся для вырабу шкатулак. Вядомы таксама своеасаблівы від С.— саломапластыка — выраб з пучкоў саломы лялечных фігурак жывёл, птушак і людзей, якія раней выкарыстоўваліся ў якасці атрыбутаў каляндарнай і сямейнай абраднасці: на вяселлі маладым дарылі дзвюх лялек на шчасце, фігуркай козліка ўпрыгожвалі вясельны каравай, саламянымі птушкамі на каляды і вялікдзень упрыгожвалі хату. З саломы рабілі таксама *павука* — падвесную або насценную дэкаратыўную канструкцыю для ўпрыгожання інтэр'ера жылля.

Традыцыйным С. займаліся паўсюдна. Саламяныя ўпрыгожанні, дробную пластыку, павукі плялі пераважна жанчыны і дзеці. Пляценне утылітарных рэчаў (начынне, капелюшоў) звычайна было хатнім промыслам, у 2-й пал. 19 ст. на Палессі і ў Гродзенскай губ. выраб саламяных брылёў паступова ператварыўся ў саматужны промысел. У пач. 20 ст. ўзніклі майстэрні па вырабу шкатулак, карзінак, фруктоўніц і інш. рэчаў пераважна для гарадскога спажыўца. Са зменай сацыяльна-эканамічных умоў развіцця сучаснай вёскі традыцыйныя віды С. паступова зніклі (у наш час адзначаюцца толькі асобныя выпадкі вырабу саламяных рэчаў у Брэсцкай, Гродзенскай і Мінскай абл.). З сярэдзіны 1960-х г. С. развіваецца пераважна ў форме арганізаванага мастацкага промыслу, які характарызуецца нацыянальнай мастацкай самабытнасцю, вобразнай і сюжэтна-тэматычнай разнастайнасцю, своеасаблівымі сродкамі і тэхнікамі пляцення. Гэты від мастацтва вядомы пад назвай беларуская саломка. У апошнія гады набылі папулярнасць сувенірная саломапластыка (анімалістычныя скульптуры, лялькі), дэкаратыўна-утылітарныя рэчы (шкатулкі, хлебніцы, сумкі), дэкаратыўныя маскі-пано, саламяная біжутэрыя і інш., якія ствараюцца на Брэсцкай фабрыцы сувеніраў, Магілёўскай, Чачэрскай, Хойніцкай фабрыках мастацкіх вырабаў, мастацка-вытворчым камбінаце Мастацкага фонду Саюза мастакоў БССР. Калекцыі традыцыйных і сучасных вырабаў С. зберагаюцца ў музеях рэспублікі, Дзярж. гіст. музеі (Масква), Дзярж. музеі этнаграфіі народаў СССР (Ленінград).

*В. А. Лабачэўская.*

**САЛЬНІ́ЦА,** пасудзіна для ўтрымання солі. У традыцыйным нар. побыце былі найбольш пашыраны драўляныя С., якія адрозніваліся памерамі, формай, тэхнікай вырабу і дэкаратыўным аздабленнем. Аднасна вялікія памеры мелі выдзеўбаныя са ствала дрэва С. ў форме *кадаўба*, што былі разлічаны па захаванне солі ў запас і стаялі часцей за ўсё ў клеці ці каморы. Другая разнавіднасць С.— прамавугольныя. Іх збівалі з планак, адна з якіх была даўжэйшай і выступала зверху, утвараючы фігурна апрацаванае вушка, за якое С. падвешвалі да сцяны побач са сталом ці кухоннай полкай. У хатнім побыце былі шырока распаўсюджаны і невялічкія С., выразаныя ці вытачаныя з цвёрдых парод драўніны (бярозы-чачоткі, наростаў драўніны і інш.) у форме ступак, карцаў, кубкаў, часам упрыгожвалі сціплым разьбяным дэкорам. Такія С. ставілі на стол побач з хлебам; яны ў паўсядзённым побыце выконвалі практычныя, эстэтычныя і абрадавыя функцыі.

*В. С. Цітоў.*



Сальніцы.

**САМАБІТКА,** падвешаны на вяроўцы або ланцугу пад борцю ці подкурам цяжкае бервяно, калода або камень, якія ахоўвалі пчол ад мядзведзяў. Называлі таксама самабіла. Звісаючы ўздоўж ствала, С. перагароджвала шлях драпежніку. Калі мядзведзь адштурхоўваў яе ўбок, яна вярталася на сваё месца і збівала шкодніка з дрэва. Іл. гл. да арт. *Подкур.*

**САМАПРА́ДКА,** прылада для механізаванага прадзення лёну і воўны ў хатніх умовах; тое, што і *калаўрот.*

**САМЦЭ́ВІЧ** Васіль Андрэевіч [7(19). 3.1889, в. Дакудава Крупскага р-на — 11.10.1978], беларускі савецкі педагог і краязнавец. Засл. настаўнік БССР (1945). Чл. КПСС з 1945. Удзельнік лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый, грамадзянскай і Айч. войнаў. Скончыў Віцебскі настаўніцкі ін-т (1915), вучыўся на Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага ін-та. У 1918—28, 1932—56 працаваў у органах нар. асветы, настаўнікам; у 1929—32 навуковы сакратар Цэнтр. бюро краязнаўства пры Інбелкульце (з 1929 у складзе АН БССР). Кіраваў Барысаўскай краязнаўчай філіяй. Супрацоўнічаў у час. «Наш край» (з 1930 «Савецкая краіна»). Аўтар артыкулаў «Вёска Дакудава (Крупскі р. Аршанскай акругі)» (1927), «Аб арганізацыі краязнаўчай працы на фабрыках і заводах», «Да вывучэння калгасаў» (усе 1929), «Калгаснае будаўніцтва і краязнаўства» (1930)

і інш. Памагаў свайму брату П. А. Самцэвічу ў складанні слоўніка бел. мовы і фальклорных зборах. Аўтар падручнікаў па бел. мове, метадычных дапаможнікаў для пачатковай школы, метадычных распрацовак па курсу бел. мовы.

*Г. А. Каханоўскі.*

**САМЦЭ́ВІЧ** Пётр Андрэевіч (6.3.1899, в. Дакудава Крупскага р-на — жн. 1941), беларускі савецкі лінгвіст, фалькларыст і краязнавец. Скончыў Горы-Горацкі с.-г. ін-т (1922), вучыўся ў Мінскім пед. ін-це (1937—41). Удзельнік грамадз. вайны. З 1923 на пед. рабоце, адначасова займаўся зборам матэрыялаў па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, геалогіі Барысаўшчыны. Друкаваўся ў час. «Наш край» (з 1930 «Савецкая краіна»). Адзін з арганізатараў Барысаўскага краязнаўчага музея, перадаў яму рэдкую калекцыю прадметаў археалогіі і этнаграфіі. У 1924 перадаў Інбелкульту больш за 300 тэкстаў замоў, казак, песень, прыпевак (усяго запісаў больш за 1000 фальклорных твораў). Па заданню камісіі па складанню гіст. слоўніка бел. мовы Інбелкульта займаўся зборам і апрацоўкай лінгвістычнага матэрыялу. Складаў слоўнік тапонімаў і мікратапонімаў Барысаўшчыны і Крупшчыны.

*Г. А. Каханоўскі.*

**СА́НІ,** палазовы транспартны сродак, які шырока выкарыстоўвалі зімой, калі ўстанаўлівалася снежнае покрыва. Прататыпам С. былі *валакушы*. Архаічныя С. мелі натуральныя, крыху выгнутыя кверху палазы з абрубкамі сукоў, што выконвалі функцыю капылоў. Эвалюцыя С. ішла па шляху функцыянальнага і сацыяльнага размежавання, што абумоўлівала іх тыпалагічную разнастайнасць і канструкцыйныя асаблівасці. Паводле прызначэння ўсе С. можна падзяліць на некалькі тыпаў: звычайныя рабочыя С., *кары* (лесавозы), выязныя С. *(вазкі)* і ручныя С. (санкі). Найбольш распаўсюджанымі былі рабочыя С. У тыповым варыянце ўяўлялі сабой 2 палазы, злучаныя паміж сабой на капылах гнуткімі (часцей дубовымі) вязамі, якія загіналіся сваімі канцамі на 180° вакол пары праціглеглых капылоў. Паўзверх вязаў на канцы капылоў паралельна полазу набіваліся драўляныя бруські (намарзня, намаржня, наклеска). У адным выпадку палазы мелі натуральна выгнутую галоўку (копанкі, копані), у другім — іх гнулі пасля распаркі з дубовага, ясеневага, вязавага дрэва на спецыяльным прыстасаванні — *гбале*. Выгнутую форму фіксавала іцвіна (папліска) — хордавая перакладзіна, што злучала галоўку полаза з пярэднім капылом. За пярэднія капылы нярэдка мацавалі і аглоблі для коннай ці валовай *запрэжкі*. Перакрыццё С. утваралі дошкі ці луб, што накладваліся паверх вязоў. Для павелічэння пагрузачнай пляцоўкі ўладкоўвалі развалкі (розвальні) — да звычайных рабочых С. далучалі дзве жэрдкі, што разыходзіліся ад галовак па баках С. і злучаліся ў задняй частцы папярочынай — раздужжам (адсюль і назва — розвалкі). У сялянскай гаспадарцы рабочыя С. выконвалі універсальныя функцыі. Адносная лёгкасць канструкцыі дазваляла выкарыстоўваць іх для пасажырскай язды, пры гэтым у задняй частцы С. устанаўлівалі трохбаковую крацістую драбінку накшталт кузава вазка. Пры перавозцы малагабарытных і сыпкіх грузаў, паездцы на мясцовы рынак і інш. паверх С. ставілі плецены паўкош (палукаш). Рабочыя С. ўжывалі замест караў пры перавозцы лесу; для гэтага на намаржні ўпоперак С. клалі тоўсты брусок (лісіцу), на які клалі камлёвую частку бервяна, а пад верхавіну падводзілі *падсанкі*, якія амаль не адрозніваліся па форме ад рабочых С., але былі меншых памераў. Іх выкарыстоўвалі для розных дробных перавозак, работы каля дому, у дзіцячых гульнях, святочных катаннях і інш.

Паралельна з колавым транспартам С. з'явіліся больш старажытнымі і былі больш распаўсюджанымі. У сярэднявечны яздзе на С. аддавалася перавага. Важныя службовыя асобы рабілі ўрачыстыя выезды на С. і летам. Значную ролю адыгрывалі С. ў вясельнай і пахавальнай абраднасці, пра што сведчаць стараж. мініяцюры і жыццеапісанні. Рэшткі абгарэлых С., знойдзеныя ў стараж.-рускіх курганах, сведчаць, што памерлых спальвалі ў С. (калісьці выраз «сядзець у санях» азначаў тое ж, што «ляжаць на смяротным ложы»). Выраб С. нярэдка вылучаўся ў самастойны спецыялізаваны промысел. У панскіх маёнтках і дзярж. эканоміях існавалі асобныя «службы санніцкія», майстры якіх былі вызвалены ад цяглавых павіннасцей. Так, паводле феадальнага інвентару Ваўкавыскага двара, саннікі складалі асобны пасёлак з 8 службаў. Санны промысел шырока быў развіты ў сельскай мясцовасці як вытворчасць на заказ і на рынак. Вельмі часта ён існаваў неаддзельна ад *стальмашнага рамяства*, што тлумачылася падобнай тэхналогіяй і універсальнымі навыкамі сельскіх майстроў дрэваапрацоўкі. У пачатку 20 ст. пашырылася кааперацыя саннага і кавальска-слясарнага промыслаў: у С. павялічвалася колькасць жалезных дэталей, на якія прыпадала найбольшая эксплуатацыйная нагрузка; палазы сталі больш тонкімі і падбіваліся паласавым жалезам; іцвіны замянялі жалезнымі стрыжнямі; акоўка давала магчымасць шырэй выкарыстоўваць замест





Сані.

вязоў брусковыя папярочнікі. У наш час традыцыйныя С. ўжываюцца ў сельскім побыце пры перавозках на кароткія адлегласці і ў асабістых гаспадарках.
*В. С. Цітоў.*

**САРАКІ́**, веснавое свята *народнага календара*, якое праваслаўная царква адзначае як дзень 40 пакутнікаў (9 сакавіка с. ст.). Лічба 40 часта абыгрывалася ў павер'ях і абрадавых дзеяннях. Дзяўчаты на С. пераломвалі 40 дошчачак і разрывалі 40 вяровачак (сімвалізавалі, відаць, сілы, што скоўвалі зямлю), каб наблізіць надыход цяпла, абудзіць ад зімовага сну ўсю жывую прыроду. Калі на С. здараўся мароз, то чакалі яшчэ 40 маразоў і за кожным з іх з'ядалі па адному з 40 хлебных шарыкаў, спечаных да свята. На С. звычайна чакалі пацяплення, «адушшэння» дрэў і прылёту птушак («На саракі прыляцелі з-за мора птакі»). Калі ад грамніц да С. трымалася добрае сухое надвор'е, то летам чакалася засуха.
*У. А. Васілевіч.*

**САРАЧЫ́НЫ**, памінальны абрад, які адзначаўся на 40-ы дзень (6-ы тыдзень) пасля смерці чалавека. Называлі таксама саракавіны, саракі, саракапуст, шасціны. Згодна з нар. павер'ямі, у гэты час душа нябожчыка наведвала родную хату, таму яе прыбіралі ручнікамі, за акно выстаўлялі хлеб-соль і шклянку з вадой. На С. родныя наведвалі магілу памерлага, наладжвалі ў доме жалобны стол, які паходзіць ад стараж. язычніцкай трызны. Сярод абавязковых памінальных страў былі *куцця*, *канун* і інш. Асобны прыбор з пітвом і стравай ставілі для памерлага. С., як і іншыя *памінкі*, звязаны з *культам продкаў*. Неабходнасць адзначаць С. тлумачылі тым, што непамянутая душа асуджана на пакуты і не будзе спрыяць людзям у іх зямных справах. У наш час С.— ушанаванне светлай памяці памерлых.
*У. А. Васілевіч.*

**САРМАТЫ́ЗМ**, саслоўная грамадска-палітычная сістэма ў сферы ідэалогіі, культуры, маральна-этычных уяўленняў, адносін і паводзін шляхецкага асяроддзя ў Польшчы, на Беларусі, у Літве і на Украіне ў 16—18 ст. Этымалогія звязана з этнонімам сарматы і ўзыходзіць да этнагенетычных канцэпцый польскіх гісторыкаў, публіцыстаў і грамадскіх дзеячаў 15—16 ст. Б. Валоўскага, Я. Длугаша, М. Кромера, М. Бельскага, Мацея з Мяхова, М. Стрыйкоўскага і інш., згодна якім шляхта разглядалася як асобны шляхецкі народ, які нібыта вядзе сваё паходжанне ад антычных сарматаў, што рассяляліся ў межах Еўрапейскай Сарматыі (ад Віслы да Дона) і падпарадкавалі мясцовае насельніцтва (продкаў простага люду). С. аб'ядноўваў на ідэалагічным узроўні розных па свайму прававому і маёмаснаму становішчу, паходжанню, мове і канфесіянальнай прыналежнасці магнатаў і ваеннаслужылых феадалаў (*шляхту, зямян* і часткова *баяр*), спрыяў росту іх дзяржаўна-паліт. свядомасці, юрыдычна-прававой («залатыя шляхецкія вольніцы»), канфесіянальнай (пераважна каталіцка-уніяцкай) і інш. інтэграцыі. У выніку ў асяроддзі шляхты ўзніклі своеасаблівыя ўсталяваныя і агульнапрынятыя формы светаўспрымання, мастацкай культуры, побыту, адносін і паводзін (гл. таксама *Панібрацтва*). Адбылася і пэўная этнічная асіміляцыя польскай шляхтай значнай часткі ўкраінскай, менш — бел. і літоўскай шляхты. У галіне матэрыяльнай культуры, мастацтва і літаратуры С. звязваецца з агульнаеўрапейскімі тэндэнцыямі Адраджэння, стылем барока.
*І. У. Чаквін.*

**«САРО́КА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Рухі танца імітавалі звычкі сарокі: выкапаўцы, глыбока прысеўшы, далонямі абхватвалі абцасы і ў такой паставе скакалі. Выконвалі «С.» пераважна хлопцы, часам удзельнічалі і дзяўчаты, надаючы танцу гульнёвы характар. Хлопец выбіраў дзяўчыну, якая яму спадабалася, і стараўся перад ёю паказаць свой спрыт — імкнуўся скакаць як мага далей і вышэй. Дзяўчаты бегалі вакол сваіх партнёраў або па крузе і махалі, як крыламі, разведзенымі рукамі. Танец зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Браслаўскім і Пінскім раёнах.
*Г. К. Каляда.*

**САРО́ЧКА** асноўная частка мужчынскага і жаночага беларускага народнага адзення; тое, што і *кашуля*.

**САХА́**, традыцыйная ворная прылада. Археалагічныя знаходкі жалезных сашнікоў сведчаць, што на Беларусі С. з жалезным сашнікам вядома з канца 1-га тысячагоддзя. Паводле канструкцыйных асаблівасцей вылучаюць палескую (літоўскую, падляшскую), віцебскую (рускую, перакладку), падняпроўскую (магілёўскую або беларускую) С., якія ў сваю чаргу маюць шмат прыватных ці пераходных варыянтаў. На ПдЗ Беларусі была пашырана палеская С., якая складалася з корпуса (рагача), зробленага звычайна са ствала дрэва, выкапанага з коранем, і рабочай часткі (расохі, плахі). Два каранёвыя адросткі рагача ўтваралі ручкі, другі яго канец — доўгі дышаль (біла). Для зручнасці кіравання С. у час ворыва дышаль злучаўся палкай (мыліцай, муліцай) з левай ручкай. Расоха мацавалася да рагача знізу ў адтуліне пад пэўным вуглом, ад якога залежала глыбіня ворыва. Яна рабілася часцей за ўсё з бярозы і мела раздвоены канец, на які набіваліся жалезныя сашнікі. Адметнай рысай палескай С. была яе асіметрычнасць: розная форма і пастаноўка сашнікоў і адвальных дошак (паліцы). У рабочым стане левы падобны на пяро сашнік (верхавы нарог, апірач) падразаў пласт зямлі збоку, а правы сіметрычны (ральнік) падымаў яго знізу, адвальваючы пры дапамозе паліц на правы бок. Дзве паліцы розных памераў падбіваліся адпаведна пад сашнікі: левая, больш кароткая (верхняя, ці закрой), была пастаўлена больш крута параўнаўча з правай (рылляная, плах-



Палеская саха.



Падняпроўская (магілёўская) саха.

Віцебская саха.

тына), што стаяла ніжэй закрою. Такая канструкцыя давала магчымасць акуратна пераварочваць ворыўны пласт і роўна араць усё поле. Масіўнасць форм, устойлівасць і плаўнасць ходу адпавядалі нетаропкай хадзе рабочых валоў у ярэмнай запрэжцы. С. палескага тыпу вядома і на ўкр. Палессі, польскім Падляшшы, літоўскай Аўкштайціі. У Панямонні сустракалася С. больш лёгкая за палескую з дзвюма паліцамі і аднолькавымі сашнікамі. Замест дышля яна мела кароткіградыль, да якога прыстасоўвалі аглоблі для аднаконнай ці аднаваловай запрэжкі. У Паазер'і шырока выкарыстоўвалася С. віцебскага тыпу з перакладной паліцай для аднаконнай запрэжкі. Яе рабочая частка (плаха) заціскалася папярочнымі брускамі (адзін з іх утвараў па канцах і ручкі), да якіх мацаваліся аглоблі (вобжы). Плаху нярэдка замянялі два паралельна пастаўленыя і звязаныя паміж сабой выгнутыя бруски, на канцы якіх набівалі аднолькавай формы (часцей трубчастыя) сашнікі. Адвальным прыстасаваннем служыла невялікая лапатападобная паліца, замацаваная на адным з сашнікоў з дапамогай пяньковых цягаў (зямлянкі), што злучалі накрыж аглоблі з ніжняй часткай плахі і надавалі трываласць усёй канструкцыі. Паліцу можна было перакладваць з аднаго сашніка на другі і адварочваць ворыўны пласт адпаведна направа ці налева, што павышала манеўранасць С. на вузкіх доўгіх палетках і ва ўмовах цераспалосіцы. С. арала на невялікую глыбіню, хутчэй адхінала, а не пераварочвала ворыўны пласт і экалагічна адпавядала характару мясцовых дзярнова-падзолістых, часта завалуненых глеб. На Падняпроўі выкарыстоўвалася С. з больш доўгай і стацыянарнай паліцай, замацаванай пад левы сашнік. Такая канструкцыя рабочай часткі давала магчымасць больш грунтоўна апрацоўваць поле. Кароткія аглоблі (вожбы) не выконвалі, як і ў віцебскай С., сваёй функцыі: конь запрагаўся ў пастронкі, якія мацаваліся да канцоў аглабель. Даўжынёй пастронка рэгуляваліся цягавае супрацьўленне і глыбіня ворыва.

Нават у межах аднаго павета С. маглі адрозніваліся канструкцыяй, формай сашнікоў і расохі, пастаноўкай паліцы і г. д. Так, на Палессі бытавала С. і без паліц: зямля адвальвалася пры дапамозе адпаведным чынам пастаўленых шырокіх сашнікоў (левы крыху вышэй і ззаду правага) і асіметрычнай расохі. У Цэнтр. Беларусі побач з двухпаліцавай палескай вядома і С. з адной паліцай. Бытаванне таго ці іншага тыпу (або канструкцыйнага варыянта) С. залежала ад мясцовых глебавых умоў. Так, у 19 ст. ў Барысаўскім і Ігуменскім пав. на сугліністых глебах выкарыстоўвалася С. палескага тыпу (паўзуха), на пясчаных завалуненых і лясных глебах — лёгкая С. колавага тыпу, т. зв. дрында. Апошняя мела вузкія трубчастыя сашнікі і амаль вертыкальна пастаўленую расоху, што дазваляла ёй пружыніць пры сутыкненні з карэнішчам і валунамі. Такія С., відаць, былі больш пашыраны ў эпоху сярэдневякоўя, аб чым ускосна сведчаць знаходкі трубчастых сашнікоў у стараж. слаях (11—13 ст.) Полацка, Мінска, Друцка. У 19 ст. колавыя С. без паліцы выкарыстоўвалі пры першым узорванні папару («ламаць поле»), а пры ворыве пад сяўбу — С. з шырокімі сашнікамі і адвальным прыстасаваннем. С. без паліц выкарыстоўваліся і пры акучванні бульбы (гл. *Акучнік*), гэтыя функцыі яны зрэдку выконваюць у асабістых гаспадарках Паўн. Беларусі да нашага часу. *В. С. Цітоў.*

**СА́ХАРАЎ** Сяргей Пятровіч [17(29). 9.1880, Полацк — 22.4.1954], беларускі фалькларыст, этнограф, педагог. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1895), Юр'еўскі ун-т (Тарту, 1911). Выкладаў у гімназіях і настаўніцкім ін-це ў Віцебску (1911—13), адначасова сакратар *Віцебскай вучонай архіўнай камісіі.* З 1913 інспектар нар. школ у Юр'еўскім пав., з 1917 дырэктар-арганізатар Люцынскай (цяпер г. Лудза Латв. ССР) рускай гарадской гімназіі. У 1919 заг. дашкольнага пададдзела Люцынскага павятовага аддзела нар. асветы, узначальваў Бел. аддзел пры Мін-ве асветы Латвіі (1921—25). У 1925—32 дырэктар Дзвінскай бел. гімназіі, актыўны ўдзельнік культурна-грамадскага жыцця беларусаў у Латвіі. Збіраць і публікаваць бел. вусна-паэт. творчасць пачаў у 1906 (першы запісаны ім нар. твор «Люцынская легенда пра стары замак» апубл. ў газ. «Витебский голос»). Лічыў фальклор састаўной часткай сучаснай бел. культуры, сродкам маральна-этычнага і патрыятычнага выхавання. Апублікаваў шэраг гісторыка-этнагр. артыкулаў пра каменныя крыжы на Беларусі, пра стараж. нар. музычныя інструменты, кнігадрукаванне; вывучаў гіст. і культурныя сувязі беларусаў з прыбалтыйскімі народамі. Падрыхтаваў 4 выпускі «Народнай творчасці латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў» (у 1940 выдадзены 1-ы выпуск, уключае 414 песень і нотных запісаў да іх, кожнаму песеннаму жанру папярэднічаюць сціслыя, змястоўныя нататкі). У 2—4-м вып. (рукапіс) сабраны казкі, легенды, паданні, вершаваныя апавяданні, прыпеўкі, прыказкі, дзіцячы фальклор. Выступаў у друку з навукова-папулярнымі нарысамі, прысвечанымі старажытнасцям. Полаччыне, полацкаму князю Усяславу Брачыславічу, князёўне Ефрасінні Полацкай, а таксама бел. этнографам і фалькларыстам П. В. Шэйну, Е. Р. Раманаву, М. Я. Нікіфароўскаму, гісторыку А. П. Сапунову. Рукапісы фальклорна-этнагр. матэрыялаў, педагагічная, гісторыка-этнагр. і літаратурна-публіцыстычная спадчына С. зберагаюцца ў б-ках АН БССР, Латв. ССР і Літ. ССР. *А. С. Ліс.*



Драўляныя двухрогія **сахары.**

**САХО́Р**, прылада для накідвання гною на вазы, растрасання яго на полі; разнавіднасць *віл*аў. Выкарыстоўваецца і пры сціртаванні саломы, стагаванні сена, для ўскопвання глебы на агародах. Складаецца з 3 або 4 жалезных злучаных паміж сабой зубоў, насаджаных на драўлянае дзяржальна. Даўжыня зубоў 30—40 см, дзяржальна — 1,5—2 м. Раней у сялянскіх гаспадарках бытавалі драўляныя двухрогія С. з вострымі канцамі ражкоў. *Л. І. Мінько.*

**САХУ́ТА** Яўген Міхайлавіч (н. 15.2. 1945, в. Вечатарова Стаўбцоўскага р-на), беларускі савецкі мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1982). Чл. КПСС з 1968. Скончыў Віцебскі педагагічны ін-т (1972). Працаваў настаўнікам (з 1963), з 1975 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1984 старшы навуковы супрацоўнік). З 1985 галоўны рэдактар час. «Мастацтва Беларусі». Друкуецца з 1971. Даследуе гісторыю і тэорыю бел. нар. дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і нар. мастацкіх промыслаў. Адзін з аўтараў працы «Грамадскі, сямейны побыт і духоўная культура насельніцтва Палесся» (1987), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1—3, 1987—89), аўтар шматлікіх артыкулаў пра рэдкія і забытыя віды нар. мастацтва (кавальства, пісанкі, выцінанкі, гліняную цацку і інш.).

*Тв.:* Народная разьба па дрэву. Мн., 1978; Беларускае народнае мастацтва: [Альбом]. Мн., 1980; Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии. Мн., 1982; Фарбы роднай зямлі. Мн., 1983; Беларуская народная кераміка. Мн., 1985; Беларуская народная кераміка. Мн., 1987; Художественные ремёсла и промыслы Белоруссии. Мн., 1988 (разам з В. А. Гаварам). *Л. А. Суднік.*

**САЦЫЯ́ЛЬНАЯ СТРУКТУ́РА Э́ТНАСУ**, сукупнасць класаў, пазакласавых, унутрыкласавых і дэмаграфічных груп, розных сацыяльных слаёў і інш., якія ўтвараюць канкрэтны этнасацыяльны арганізм; адзін з асноўных фактараў развіцця этнасацыяльных працэсаў. У С. с. э. адлюстроўваюцца грамадскія адносіны, характар якіх вызначае прыналежнасць да пэўнай грамадска-эканам. фармацыі і адпаведнага гісторыка-стадыяльнага тыпу этнасацыяльных арганізмаў (племя, рабаўладальніцкая або феадальная народнасць, буржуазная або сацыялістычная нацыя). Этнічны склад сацыяльных груп, іх колькасныя суадносіны, узровень сацыяльнай арга-

нізацыі, шляхі фарміравання істотна ўплываюць на напрамкі і тэмпы развіцця этнасацыяльнай дынамікі народаў, утварэнне своеасаблівасці канкрэтных этнасаў.

У класавых дакапіталістычных грамадствах вялікае значэнне мела наяўнасць этнічна «ўласнага» пануючага класа, у залежнасці ад гэтага вылучаюць этнасы з поўнай і няпоўнай С. с. э. Пры няпоўнай С. с. э. ўзнікае пагроза асіміляцыі, стрымліваецца развіццё кансалідацыйных працэсаў, што ў прыватнасці было характэрна для бел. этнасу ў 2-й пал. 17—1-й пал. 19 ст. Фарміраванне нацыянальных супольнасцей у еўрапейскіх этнасаў з няпоўнай С. с. э. (часам іх вызначаюць як «малыя народы») у эпоху пераходу ад феадалізму да капіталізму атрымала назву нацыянальнае Адраджэнне. Перавага сялянства ў С. с. э. шэрагу буржуазных нацый, у т. л. і беларускай, адбілася на іх нацыянальна-вызваленчым руху, мастацкай культуры і інш. У. І. Ленін адносіў такія буржуазныя нацыі да віду «мужыцкіх» (Тв., т. 24, с. 394). У сацыялістычным грамадстве развіццё працэсаў інтэрнацыяналізацыі, урбанізацыі, рост агульнага ўзроўню культуры спрыяе знікненню істотных адрозненняў у С. с. э. розных этнасацыяльных арганізмаў, узмацненне сувязей паміж імі. *П. У. Церашковіч.*

**САЧНІ́**, тоўстыя мучныя бліны з начынкай. Называлі таксама хапуны. Скаромныя С. начынялі мясам, тварагом або яйкамі, посныя — яблыкамі, вішнямі, макам і інш. Часта С. пяклі ў дарогу, бралі з сабой у поле. Такія С. вядомы на Пн Віцебшчыны. На Ушаччыне, у некаторых раёнах Магілёўшчыны С. пяклі з хлебнага цеста, якое яшчэ не падышло, без начынкі (гл. *Скавароднік*).

**САЧО́К**, традыцыйная рыбалоўная прылада; невялікі сеткавы мяшок, прывязаны да абруча, утворанага разгалінаванай верхавінкай тонкага ствала дрэва; тое, што і *падсака*.

**САШЫ́ЛА**, традыцыйная рыбалоўная прылада, што выкарыстоўвалася пры падлёднай лоўлі рыбы *зімовым невадам*. Уяўляе сабой метал. вілы, асаджаныя на драўляную ручку з папярочнай перакладзінай на канцы. Ужывалася і як дапаможная прылада для прагону пад лёдам жэрдак з вяроўкамі. У наш час С. карыстаюцца ў прамысловым рыбалоўстве.

**САЯ́Н**, спадніца з прышыўным ліфам-гарсэтам; састаўная частка нар. жаночага адзення беларусаў Падняпроўя ў 19 — пач. 20 ст. Шылі з баваўняных ці льняных тканін з вузкімі плечавымі шлейкамі ліфа і глыбокім вырэзам праймы. Спадніцу звычайна кроілі з 4 полак даматканай андарачнай тканіны, ліф-гарсэт — з фабрычнай (аксаміт, сацін, шарсцянка, парча, шоўк). У паўн.-ўсх. р-нах С. шылі з ільняных пярэстатканых ці маляўніча-набіваных тканін сіняга або блакітнага колераў. Апраналі паверх кашулі і падпяразвалі вузкім поясам. На Беларусь С. трапіў, відаць, з Зах. Еўропы, дзе быў верхнім адзеннем феадальнай знаці і духавенства ў 16—18 ст. (шылі з аксаміту, парчы, сукна пераважна чорнага, сіняга, шэрага колераў; складаўся з 2 частак — шчыльнага ліфа з лямкамі або кароткімі рукавамі і фалдзістага нізу). Сустракаецца ў адзенні рускіх, украінцаў (сарафан). *М. Ф. Раманюк.*

**СВАРО́Г** (ад санскр. svarga неба), вобраз старажытнай міфалогіі ўсходніх славян, бажаства неба, нябеснага агню, бацька *Сварожыча* і *Дажбога*. Паводле стараж. міфа, злучыўшы неба і зямлю, навучыў людзей каваць жалеза (у час яго ўладарства нібыта з неба на зямлю ўпалі клешчы і людзі пачалі каваць зброю). Яму прыпісваецца ўвядзенне манагамнага шлюбу і кары за парушэнне гэтага звычаю (парушальнікаў быццам бы кідаў у вогненную печ). Пастулова С. страціў значэнне галоўнага бажаства, ім стаў Дажбог, потым *Пярун*. З пашырэннем хрысціянства функцыі і рысы С. як апекуна шлюбу нададзены Кузьме. *М. Ф. Піліпенка.*





Дзяўчына ў **саяне**. Вёска Рудня-Барталамееўка Чачэрскага раёна. Пачатак 20 ст.

**Сашыла.**



**СВАРО́ЖЫЧ**, вобраз старажытнай міфалогіі ўсходніх славян, бажаства зямнога агню, сын *Сварога*. Яму пакланяліся, да яго звярталіся з малітвай (часцей за ўсё гэта рабілі каля ёўні). У час сушкі снапоў у ёўні спальвалі неабмалочаны сноп жыта як ахвяру С. Прымхлівыя людзі лічылі, што С. можа адвесці бяду. З пашырэннем хрысціянства на Русі імя С. паступова знікла, але сляды культу захоўваліся да канца 19 ст. *М. Ф. Піліпенка.*

**СВАТ**, 1) адзін з галоўных *вясельных чыноў* з боку жаніха — жанаты мужчына старэйшага ўзросту, які ўдзельнічаў у *сватанні* нявесты; 2) жанаты ўдзельнік вяселля (дзядзька, брат, муж сястры, блізкі знаёмы жаніха або нявесты, іх сусед); 3) бацька жаніха, іншы старэйшы жанаты сваяк нявесты ў адносінах, перш за ўсё, адзін да аднаго, а таксама да іншых родзічаў (і іншых удзельнікаў вяселля) з процілеглага боку, звычайна пасля дасягнення бакамі дамоўленасці пра шлюб. Старшы С. (першы, дружко, стараста, маршалак) кіраваў вясельным працэсам у доме жаніха і ў доме нявесты, вёз жаніха ў дом нявесты, выкупляў яе *касу*, «хрысціў» пугай парогі, дзяліў *каравай*, прывозіў нявесце падарункі ад жаніха, выкупляў нявесту, нёс *ёлачку* ад нявесты ў дом жаніха, параўноўваў караваі і г. д. Галоўныя атрыбуты старшага С.: ручнік або два ручнікі, перавязаныя праз плячо, яркі пояс, пуга (палка). Акрамя старшага, бы-

лі меншы С., другі С., трэці С. і г. д., якія памагалі першаму, а таксама каранны (дамавы) С.— бацька маладога і бацька маладой. Чын С. на вяселлі захоўваецца і ў наш час. С. называюцца і бацькі маладых (мужа і жонкі) у адносінах адзін да аднаго. *Л. А. Малаш.*

**СВА́ТАННЕ,** с в а т ы, адзін з этапаў падрыхтоўчага перыяду *вяселля*, у час якога бацькі і нявеста даюць згоду на шлюб. Рэгіянальная назва дружкі (Пружаншчына, Слонімшчына). Часам С. называюць увесь падрыхтоўчы перыяд вяселля. У С. найчасцей ехалі бацька жаніха, яго старэйшы брат, дзядзька або хто-небудзь з блізкіх сваякоў, абавязкова жанатыя і не ўдаўцы. На ПдЗ Беларусі ў С. магла ўдзельнічаць і замужняя жанчына. Самога жаніха звычайна не бралі. Нярэдка ў якасці галоўнага свата запрашалі каго-небудзь са старонніх, хто добра ведаў рытуалы С. і мог красамоўна і пераканаўча весці размову. Меў значэнне таксама выбар дня С. Сватаць ехалі ў аўторак, чацвер, суботу або напярэдадні якога-небудзь свята ўначы без папярэдняй дамоўленасці або пасля яе. У першым выпадку сваты частавання і падарункаў не бралі, у другім — бралі гарэлку, бохан ці лусту хлеба з соллю, загорнутыя ў ручнік. Часта сваты прыходзілі нечакана ў будні дзень, каб паглядзець парадак у хаце, як выглядае і апранута нявеста ў час працы. У рэдкіх выпадках сватоў засылалі ад дзяўчыны, калі хлопец ішоў у прымы. У некаторых мясцовасцях дзяўчыну (асабліва, калі іх было некалькі ў сям'і), якой прыйшоў час выходзіць замуж, бацька вазіў па сваёй або суседніх вёсках і галосна крычаў: «Паспялуха! Паспялуха» (Гродзенская губ.) або: «Каму нада нада?!» (Віцебская губ.). Пасля такога прадстаўлення часта дамоўленасць пра вяселле дасягалася адразу або праз некаторы час да дзяўчыны прыязджалі сваты.

Перад ад'ездам у С. сватоў частавалі, благаслаўлялі, жадалі поспеху, а маці жаніха звязвала ўсе прадметы *качарэжніка* (памяло, вілкі, качаргу і інш.) разам і яны знаходзіліся ў такім стане да вяртання сватоў. Згодна з нар. традыцыяй, сваты не павінны былі адразу заходзіць у хату, а стукалі ў акно і прасілі пусціць іх начаў, выдаючы сябе за падарожных, паляўнічых, купцоў і г. д., якія заблудзіліся, трапілі на след куніцы, або за асоб, якія шукаюць або даведаліся, што тут прадаюць авечку, цялушку і г. д. Увайшоўшы ў хату, сваты не адразу гаварылі пра мэту прыходу, але пра яе можна было дагадацца па іх спецыфічных паводзінах: яны цісчуліся да качарэжніка, каб наступіць на памяло, качаргу, вілкі, спыняліся перад першай бэлькай, не віталіся за руку, не ішлі адразу да стала, а калі іх запрашалі, садзіліся на лаву каля сцяны ад двара (згодна з нар. прыкметай, садзіцца на лаву каля сцяны ад вуліцы азначала, што адзін з маладых аўдавее). У час С. гаварыліся розныя спецыяльныя прымаўкі, прыказкі, намёкі, прыгаворы, іншасказанні, умоўныя формулы. У большасці формул захаваліся рэшткі паляўнічага, жывёлагадоўчага, земляробчага спосабаў жыцця продкаў, водгукі стараж. звычаю куплі-продажу нявесты. Адчуўшы згоду бацькоў, сват заяўляў: «Я сват прысланы, каб быў стол засланы». Пасля гэтага маці нявесты засцілала абрусам стол, сваты клалі на яго прынесены хлеб-соль і ставілі гарэлку, а дзяўчына ставіла чаркі, што азначала згоду нявесты піць са сватамі, але яшчэ не азначала яе згоды на шлюб. Згодна са звычаем, сватоў, якія прыехалі ў С. да дзяўчыны першы раз у яе жыцці, ніколі не адпраўлялі, не выпіўшы з імі, нават і ў выпадку, калі бацькі не збіраліся выдаваць дачку за хлопца, які сватаўся. У выпадку адмовы сватам бацькі нявесты са сватамі пілі чарку стоячы. Бацька плаціў за выпітую гарэлку. Звычайна, калі бацькі і дзяўчына былі згодны, яны не адразу выказвалі свой намер, каб людзі не падумалі, што хочуць хутчэй выпхнуць дачку з хаты. Адмову тлумачылі нязначнымі прычынамі: дзяўчына яшчэ малая, адзіная ў хаце памочніца, няма ў яе яшчэ належнай колькасці ручнікоў і інш. Калі дзяўчына не збіралася выходзіць замуж, яна пры сватах брала венік і мяла ў парог, што павінна было азначаць іх «вымятанне». У адваротным выпадку яна мяла ад парога. На Пн Беларусі дзяўчына хадзіла вакол стала і прыгаворвала: «Хачу — скачу, хачу — не», на што сват, выставіўшы крыло сваёй світкі, казаў: «Скоч, дачушка, ка мне». Калі яна была згодна на шлюб, то падыходзіла да свата і цалавала яму руку. У некаторых выпадках дзяўчына садзілася на лаўку, а сват на падлозе рассцілаў перад ёю сваю світку, на якую яна саскоквала, прыгаворваючы тыя ж словы; калі ж была не згодна, выходзіла за дзверы. Пабраўшы шапкі, сваты адпраўляліся дамоў. У выпадку згоды сваты пакідалі ў хаце нявесты прывезеную імі гарэлку да наступнага прыезду. У С. ездзілі нярэдка да трох разоў. У другі раз прыязджалі з жаніхом; коні былі ўпрыгожаны *шархунамі*, а хвасты падвязаны. Калі сваты заходзілі ў хату, нявеста хавалася ў каморы, на печы або ішла да суседзяў. А калі яе запрашалі выйсці да сватоў, усяляк аднеквалася. На пытанне, ці пойдзе яна замуж, яна адказвала: «Як бацькі скажуць» або: «Калі маўчу, значыць, што хачу». Часам яна не хавалася ад сватоў, а дэманстравала перад імі сваю працавітасць. Маці ставіла на стол выпіўку і закуску з абавязковым сырам і яешняй. Хто-небудзь з хатніх нявесты або яна сама запрашала на С. блізкіх сваякоў і сяброўак. Сват, наліўшы ў чарку гарэлкі, выпіваў да нявесты, затым клаў у чарку грошы, зноў напаўняў чарку і падаваў нявесце. Крышачку адпіўшы, яна рэшту вылівала ў свой фартух або пад стол, а грошы забірала. Наступную чарку з гарэлкай нявеста перадавала свайму бацьку, які выпіваў («піў магарыч»), што азначала згоду на шлюб дачкі. Сват і бацька нявесты паціскалі адзін аднаму рукі, папярэдне накрыўшы іх крысом. У гэты час нявеста выходзіла да сябровак у камору. Сват накрываў талерку хустачкай, ставіў на яе напоўненую чарку і ішоў у камору. Падышоўшы, тройчы гаварыў: «Добры вечар. Ці любіце нас і тавар наш?», на што сяброўкі адказвалі: «Любім вас і тавар ваш». Сват браў адну з дзяўчат за руку, вёў у хату і пытаў прысутных: «Ці харош тавар?». Прысутныя адказвалі: «Харош, ды не наш». Так сват рабіў двойчы, а за трэцім разам прыводзіў нявесту, на што прысутныя гаварылі: «Тавар харошы і наш». Нявеста выпівала прынесеную сватам чарку, клала на талерку хустачку, ішла да стала і скідвала яе ў прыпол кашулі жаніха (Быхаўскі і Рагачоўскі пав.). У іншых мясцовасцях пасля магарыча маладую з каморы ў хату вёў на хустцы або ручніку бацька або брат. У больш раннія часы жаданні жаніха і нявесты пад увагу не браліся. С. абумоўлівалася гал. чынам меркаваннямі матэрыяльнага характару.

У час С. бакі гаварылі пра падрыхтоўку да вяселля і тэрмін *запоін*. Пра *пасаг* дамаўляліся папярэдне ў першы прыезд. Перад ад'ездам сватоў маці нявесты давала ім загорнуты ў ручнік свой рытуальны хлеб, які, як і хлеб жаніха, называўся мінельнікам, і бутэльку з-пад гарэлкі, у якую насыпала жыта і абвязвала яе каляровым поясам. У выпадку адмовы ад шлюбу аднаго з бакоў апошні адсылаў мінельнік назад, а нявесце, акрамя таго, вярталі з бутэлькай жыта. Калі хлопец вельмі падабаўся дзяўчыне і бацькам, маці перад выхадам сватоў з хаты кідала ўпоперак сеняў нічальніцы або стары невад (Гродзеншчына, Мядзельшчына). Лічылася, калі сваты заблытаюцца ў іх, вяселле абавязкова адбудзецца. Пасля засватання нявесце на доўгую палатняную кашулю, якую яна звычайна насіла, надзявалі спадніцу ў знак таго, што яна ўжо княгіня (Віцебшчына). У выпадку адмовы нявесты жаніху яе сяброўкі імкнуліся крадком уваткнуць у сані або воз сватоў дзяркач («галень»). Атрымаць дзяркач азначала атрымаць адмову ад нявесты. Таксама ў знак адмовы жаніху або свату прышывалі кавалачак якой-небудзь тканіны або надзявалі на галаву вянок з гарохавіння, саломы ці сена. Такі вянок чаплялі часам на доўгую палку, якую ставілі на двары жаніха. Няўдалае С. адзначалася іранічным выразам «сучка каравай з'ела». Нярэдка з воза сватоў сяброўкі нявесты выбіралі сена і салому і насыпалі імі сцежкі да сваіх хат, што павінна было азначаць хуткі прыезд да іх сватоў. У некаторых мясцовасцях Гродзеншчыны і Віцебшчыны хлопцы ўпотай бралі сватавых коней і ездзілі на іх да дзяўчат на вячоркі, што павінна было спрыяць

хуткай жаніцьбе. Пасля завяршэння С. нявеста абвязвала сватоў ручнікамі, што з'яўлялася знакам згоды на шлюб.

*Л. А. Малаш.*

**СВА́ЦЦЯ,** с в а х а, 1) адзін з галоўных *вясельных чыноў* з боку жаніха — замужняя жанчына, якая ўдзельнічала ў *сватанні* нявесты, вяла перагаворы з яе бацькамі пра шлюб да сватання; 2) замужняя (радзей незамужняя) удзельніца вяселля з боку жаніха і з боку нявесты; 3) маці жаніха (або іншая старэйшая сваячка жаніха) і маці нявесты (або іншая старэйшая замужняя сваячка нявесты) у адносінах, перш за ўсё, адна да адной, а таксама да іншых сваякоў (і іншых удзельнікаў вяселля) з процілеглага боку, звычайна пасля дасягнення бакамі дамоўленасці пра шлюб. Бо́льшая С. (першая, старшая) пасля прыезду вясельнай працэсіі жаніха да дому нявесты запальвала свечкі з каравая ад агню, раскладзенага ў варотах, цалавалася праз парог з маці нявесты, якая ад яе свечкі запальвала сваю, затым яны зляплівалі абедзве свечкі разам, слала пасцель маладым, завівала маладую, паказвала вясельнікам яе шлюбную сарочку і г. д. Галоўныя атрыбуты большай С.— кветка (вяночак) на галаве за намёткай, хлеб (або два піражкі) у руках. Чын С. на вяселлі часам захоўваецца і ў наш час.

*Л. А. Малаш.*

**СВАЯ́КІ,** гл. ў арт. *Роднасць і сваяцтва.*

**СВЕ́ТАЧ,** прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны ці смалістых корчыкаў; тое, што і *лучнік.*

**СВЁКАР,** бацька мужа.

**СВІДРАВА́ЛЬНЫЯ ІНСТРУМЕ́НТЫ,** прылады і прыстасаванні для пракручвання адтулін. Прынцып дзеяння С. і. заснаваны на вярчэнні стрыжня з вострым рэжучым канцом. Ужываліся з часоў неаліту — для пракручвання адтулін у каменных прыладах працы. Мяркуюць, што гэта былі прыстасаванні накшталт лука, цеціва якога абкручвалася вакол трубчастай косткі і надавала ёй вярчальны рух; пад ніжні канец косткі падсыпалі кварцавы пясок. Разнастайныя металічныя свердлы трапляюцца ў раскопках бел. гарадоў 11—13 ст. Імі пракручвалі адтуліны ў драўляных і касцяных вырабах, частках збудаванняў і інш. У нар. побыце 19 — 1-й пал. 20 ст. С. і. ўжываліся ў *цяслярстве, сталярстве, кавальстве.* Адтуліны пад тэблі (драўляныя калкі накшталт цвікоў) для больш трывалага мацавання частак зруба, дэталей транспартных сродкаў і інш. буйных вырабаў з дрэва рабілі свердламі розных дыяметраў — металічнымі вінтападобнымі прыладамі з рэжучым канцом і драўлянай ручкай-папярочкай. Малыя адтуліны пракручвалі свярдзёлкамі, якія мацавалі ў дугападобную рукаятку (корба). Для прасвідроўвання адтулін калёсных калодак выкарыстоўвалі спецыяльны свердзел з жолабападобным лязом — лапацень; для пракручвання дзірак у тонкіх загатоўках служыў дрыль — свярдзёлак з дыскам-махавіком, якому надавалі вярчальны рух рукаяткай з вераўчаным ці рамённым прывадам (гл. *Дрэваапрацоўчыя інструменты*). Некаторыя кузні мелі бормашыну — насценны свідравальны станок прамысловай вытворчасці з дзвюх рознавялікіх, пастаўленых пад прамым вуглом шасцерняў на раме: вялікая прыводзілася ў рух рукаяткай, малая мела патрон для мацавання свярдзёлка. Такі ж прынцып пакладзены і ў аснову канструкцыі ручнога дрыля (механізм яго можа ўключаць некалькі шасцерняў). У наш час шырока ўжываюцца разнастайныя свідравальныя прылады і станкі з электрапрывадам.

*Я. М. Сахута.*




**Свідравальныя інструменты:** 1 — свярдзёлак; 2 — лапацень; 3 — дрыль; 4 — корба.

**«СВІННЯ́»,** дзіцячая гульня. Колькасць удзельнікаў неабмежавана. Кожны гулец павінен мець кіёк. Каб вырашыць, каму выконваць ролю пастуха, праводзілася жараб'ёўка: па чарзе браліся за кіёк зверху над рукой папярэдняга, і каму выпадала брацца за канец кійка апошнім, заставаўся «пастухом». Удзельнікі свабодна (каб вырадкова пры гульні не стукнуць кійком суседа) станавіліся кругам і выкопвалі насупраць сябе неглыбокую ямку, у якой на працягу гульні трымалі канец кійка. «Пастух» з дапамогай кійка «выганяў» (выкатваў) на «выган» (цэнтр круга) «свінню» (невялікі кавалак дрэва) і пачынаў яе «пасвіць» (падштурхоўваць то да аднаго, то да другога гульца). Гулец павінен быў хутка адагнаць яе ад сябе на «выган» (адкінуць кавалак дрэва ў цэнтр круга) і паставіць кіёк назад у ямку. «Пастух» таксама імкнуўся паставіць свой кіёк у свабодную ямку гульца, і калі гэта яму ўдавалася, яны мяняліся ролямі. Дапамагчы гульцу адагнаць «свінню» мог суседні гулец. Гульня вядома на Магілёўшчыне, Меншчыне і Віцебшчыне.

*В. Дз. Ліцвінка.*

**СВІ́РАН,** гаспадарчая пабудова для захоўвання збожжа, прадуктаў і інш.; тое, што і *клець.*

**СВІ́СЛАЦКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1976 у г. п. Свіслач Гродзенскай вобл. на базе школьнага музея. Адкрыты 24.8. 1979. Мае 3 экспазіцыйныя залы, плошча экспазіцыі 189 $м^2$, 3,4 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы археалогіі, дасав. і сав. перыядаў, куток прыроды. У экспазіцыі прадметы з археалагічных раскопак на тэрыторыі раёна, у т. л. прылады працы і палявання першабытнага чалавека; дакументы і матэрыялы пра гісторыю Свіслачы, пра Свіслацкую гімназію, пра навучэнцаў і выпускнікоў гімназіі, у т. л. арганізатара тайнага т-ва ў гімназіі, публіцыста В. Гельтмана, заснавальніка манголазнаўства ў Расіі В. М. Кавалеўскага, мастака і кампазітара Н. Орду, польскага пісьменніка і гісторыка Ю. Крашэўскага; матэрыялы пра бел. этнографа і фалькларыста М. Я. Нікіфароўскага, археолага А. Дз. Каваленю, кіраўнікоў паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве К. Каліноўскага, Т. Траўгута, В. Урублеўскага; першая на бел. мове рэвалюцыйна-дэмакратычная газета «Мужыцкая праўда». Экспануюцца матэрыялы пра Кастрычніцкую рэвалюцыю і грамадзянскую вайну, пра дзейнасць свіслацкіх падпольных арганізацый КПЗБ і КСМЗБ, партызанскі рух і падполле ў Вял. Айч. вайну, дасягненні нар. гаспадаркі і культуры ў пасляваенны час. Зберагаецца этнагр. калекцыя 2-й пал. 19 ст., наборы мэблі з лазы, вырабы з керамікі, дрэва і інш. работы нар. умельцаў.

**СВІСТУ́ЛЬКА,** невялікі свісток, зроблены з гліны, саломы, травы.

**СВІСЦЁЛКА,** народны духавы музычны інструмент тыпу глабулярнай флейты. Называлі таксама свістушка, дудачка. Мае рэзанатарную поласць, свістковае прыстасаванне і 2—5 іграваых адтулін. Гукарады С. ў розных мясцовасцях адрозніваюцца сваёй будовай. Гучанне С. даволі моцнае і яркае, але не рэзкае, што абумоўлена яйцападобнай формай рэзанатара. С. выраблялі

з гліны ў выглядзе птушак, жывёл (пеўнік, качачка, баранчык, конік, сабачка), лялек (коннік), фантастычных істот (паўптушка, паўконь, чорт), у сувязі з чым бытуюць таксама пад назвамі «пеўнік», «вутачка», «коннік» і інш. С. ляпілі жанчыны і нават дзеці на пальцы або на гладка выструганай цыліндрычнай палачцы (форме) даўжынёй 8—15 см і дыяметрам 1—2 см. У 20 ст. значнае пашырэнне атрымала тэхналогія вырабу С. у гіпсавай форме. Усе адтуліны звычайна рабілі іглападобнай драўлянай праколкай (шыпулем) даўжынёй 7—12 см. На Навагрудчыне, дзе вытворчасць С.ператварылася ў самастойнае рамяство, выраблялі іх толькі мужчыны, для гэтага выкарыстоўвалі 2 розныя па канфігурацыі праколкі — горлышка і трасціну. С. былі тэракотавыя, паліваныя, радзей чорназадымленыя. Абпальвалі разам з ганчарным посудам або асобна ў звычайнай хатняй печы. У 20 ст. абпаленыя тэракотавыя С. часам размалёўвалі. Вырабам С. дзе-нідзе займаюцца і ў наш час, напр. у Лёзненскім, Барысаўскім р-нах, у в. Дрыбін Горацкага р-на і інш. Вядома С. пераважна як дзіцячая цацка, але часам дарослыя імітуюць на ёй спевы птушак, выконваюць песенныя і танцавальныя мелодыі.

*С. А. Мілючэнкаў, І. Дз. Назіна.*



Свісцёлкі.

**СВІ́ТКА,** верхняе мужчынскае і жаночае адзенне з сукна. Бытавала да 1920-х г. На Пн Беларусі насілі С. прамога халатападобнага крою (спінка і пярэднія крыссе прамыя), у цэнтр. раёнах — з адразной спінкай (ніжняя частка ў зборкі, пярэднія крыссе прамое) і з неадразной спінкай, звужанай у таліі (ад праймы рукавоў зашывалі вытачкі, якія ніжэй таліі ўтваралі фальбоны або фалды). Для Палесся характэрны С. з «вусамі» — вялікімі клінамі, ушытымі па баках ад таліі і ўпрыгожанымі каляровым шнурам, пярэстымі пампонамі, вышыўкай.

*М. Ф. Раманюк.*

**СВО́ЛАК,** гарызантальны падоўжны канструкцыйны элемент *страхі*, часцей за ўсё — бервяно. Са С., што апіраліся на тарцовыя сцены, складаўся *закот*. Самы верхні С., які знаходзіўся ў вільчыку, у розных мясцовасцях Беларусі меў розныя назвы: вільчыкавы брус, каньковы брус, правіла.

**СВЯКРО́Ў,** свякруха, маці мужа. У некаторых мясцовасцях называецца свякроўка.

**СВЯ́ТА ВЁСКІ.** Бытуе з 1960-х г. Часцей праводзіцца на цэнтр. сядзібах гаспадарак. Напярэдадні свята пасылаюць запрашэнні землякам, воінам-ветэранам, што вызвалялі вёску ад ням.-фаш. захопнікаў. Вёску добраўпарадкоўваюць, упрыгожваюць сцягамі, транспарантамі. У праграме свята — тэатралізаванае прадстаўленне пра гісторыю вёскі. На кірмашы дэманструюцца вырабы мясцовых майстроў нар. мастацтва (ручнікі, посцілкі, дываны, паясы, сурвэткі, драўляны і ганчарны посуд, вырабы з лазы, саломкі і інш.). Праводзяцца конкурсы на лепшы двор, букет кветак, кулінарны выраб. Агульныя рысы С. в.: ушанаванне ветэранаў вайны і працы, мітынг-рэквіем ля помніка загінуўшым у Вялікую Айчынную вайну, святочны канцэрт, спартыўныя выступленні, масавыя гульні.

*Г. І. Каспяровіч, В. А. Каспяровіч.*

**СВЯ́ТА ВУ́ЛІЦЫ,** урачыстасці па месцы жыхарства ў гарадах і буйных вёсках. Тэрміны правядзення найчасцей вынікаюць з назвы вуліцы (Першамайская, Перамогі, Кастрычніцкая) ці прымяркоўваюцца да памятных дат дзеячаў, імёнамі якіх названы вуліцы. Нярэдка праходзяць напярэдадні Дня Перамогі, Дня вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Святу папярэднічае работа па добраўпарадкаванню вуліц. У час свята адбываюцца мітынгі-рэквіемы, прысвечаныя загінуўшым у гады Вял. Айч. вайны, ушанаванне ветэранаў вайны і працы, перадавікоў вытворчасці, маці-гераінь, лепшых сямей, канцэрты мастацкай самадзейнасці, гульні, спаборніцтвы, конкурсы на лепшае афармленне балконаў, званне «Дом высокай санітарнай культуры», «Дом высокай грамадскай актыўнасці». Заканчваецца свята танцавальнай праграмай.

*Г. І. Каспяровіч, В. А. Каспяровіч.*



**СВЯ́ТА ГО́РАДА.** Узнікла як святкаванне гараджан з нагоды юбілейнай даты з часу заснавання горада. У ліку ўрачыстасцей — тэматычныя вечары ў культурна-асветных установах, мітынгі і дэманстрацыі працоўных і моладзі, мастацка-літаратурныя і спартыўна-масавыя мерапрыемствы, нар. гулянні. З 1986 у сталіцы БССР г. Мінску арганізоўваюцца штогодняя мастацка-спартыўныя святы («Мінск — 1986», «Мінск — 1987» і г. д.) у суботу і нядзелю, бліжэйшыя да дня вызвалення Мінска ад ням.-фаш. захопнікаў (3 ліпеня). Святу папярэднічае падрыхтоўчая работа па распрацоўцы сцэнарыя свята, арганізацыі відовішчных і забаўных мерапрыемстваў, святочнага гандлю, упарадкаванню вуліц, плошчаў, паркаў, сквераў, двароў, мастацкаму афармленню месц святочных урачыстасцей. Свята Мінска звычайна пачынаецца на плошчы Перамогі мітынгам працоўных з удзелам ветэранаў вайны і працы, працягваецца каля абеліска «Мінск — горад-герой» на праспекце Машэрава; пасля ў розных месцах горада праходзяць святочныя мерапрыемствы. Недалёка ад абеліска адбываецца фальклорна-тэатралізаваны паказ, у якім прымаюць удзел прафесійныя і самадзейныя мастацкія калектывы, дзейнічае кірмаш. Зазывалы, скамарохі агітуюць мінчан і гасцей горада наведаць гандлёвыя рады, павільёны грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання. На кірмашы наладжваюцца жартаўлівыя розыгрышы, латарэі, атракцыёны. Тут жа адбываецца паказ рамёстваў, дэманструюцца працэсы рамеснай вытворчасці розных тавараў (разьба па дрэве, вязанне карункавых сурвэтак, вышыванне ручнікоў і інш.), арганізаваны выстаўкі вырабаў мастацкіх промыслаў і рамёстваў, тэхнічнай творчасці навучэнцаў СПТВ. У «парку мастацтваў» (сквер імя Я. Купалы) арганізоўва-



Дзяўчаты ў святочных **світках.** Вёска Вугляны Камянецкага раёна. Пачатак 20 ст.

еица выстаўка-продаж твораў прафесійных і самадзейных мастакоў, выступаюць сімфанічныя аркестры. Адкрыты кніжны базар, арганізаваны спаборніцтвы па шахматах, шашках, рэндзю і інш.

У дзіцячым парку імя М. Горкага (прымае выгляд «Чуда-града») праходзіць дзіцячае свята з кавалькадай казачных герояў, скамарохамі і музыкантамі. Тут адбываюцца канцэрты дзіцячых калектываў, тэатралізаваныя і спартыўныя мерапрыемствы, конкурсы юных суднамадэлістаў і дэльтапланерыстаў, бліцтурніры па валейболу, міні-футболу і інш.

На Камсамольскім возеры праводзіцца водна-спартыўная частка свята. Абавязковыя персанажы — Нептун, дзядзька Чарнамор са сваімі волатамі, цар Салтан і інш. казачныя героі.

На другі дзень свята на Цэнтр. стадыёне «Дынама» праводзіцца вялікі святочны паказ. Ад факела, запаленага ад Вечнага агню на плошчы Перамогі, запальваюць агонь у чашы стадыёна. На полі стадыёна выступаюць прафесійныя мастацкія калектывы, праходзяць паказальныя выступленні карцінгістаў, коннікаў, парад антыкварных аўтамабіляў. Заканчваецца тэатралізавана-спартыўны паказ святочным феерверкам.

У праграме святочных мерапрыемстваў карнавал, маладзёжны баль, катанні на лодках па Свіслачы і інш. Акрамя агульнагарадскіх святочных абрадаў і ўрачыстасцей, арганізоўваецца святочны адпачынак гараджан і ў межах раёнаў горада.

У С. г. прымаюць удзел замежныя студэнты, госці сталіцы. У парку імя 50-годдзя Кастрычніка праходзіць Фестываль дружбы.

Свята Мінска — прыклад фарміравання новай святочнай традыцыі з удзелам вялікай колькасці жыхароў горада і гасцей, якія не толькі прысутнічаюць як гледачы, але і непасрэдна ўдзельнічаюць у святочных абрадах і ўрачыстасцях. Па прыкладу свята Мінска сталі арганізоўвацца ўрачыстасці і ў іншых гарадах Беларусі. Свята ўбірае ў сябе новыя і традыцыйныя нар. элементы, нацыянальныя і інтэрнацыянальныя рысы. *І. М. Браім.*

**СВЯ́ТА ПЕ́РШАЙ БАРАЗНЫ́**, урачыстасць, прысвечаная пачатку веснавых сельскагаспадарчых работ. Першы выхад у поле здаўна суправаджаўся ўрачыстым рытуалам, з ім звязваліся розныя магічныя дзеянні, прыкметы. Шырокае бытаванне гэты абрад набыў у калгасах і саўгасах. Змяніліся змест, сімволіка і атрыбуты свята, але асноўны яго сэнс застаўся ранейшы — услаўленне вясны, працы, маці-зямлі. Свята сімвалізуе павагу да хлебароба, перадавікоў працы. Разам з тым гэта — маляўнічае тэатралізаванае відовішча. Народныя сімвалы і атрыбуты: хлеб-соль на рушніку, нацыянальнае адзенне, алегарычныя персанажы — вобразы Вясны, Зямлі, Ураджаю, Вяснянкі, вянкі на галовах дзяўчат, карагоды — арганічна спалучаюцца з сучаснай сімволікай і атрыбутыкай: чырвонымі сцягамі, транспарантамі, пано і інш.

У вызначаны час на вясковую плошчу ці стадыён прыходзяць жыхары вёскі і госці, дарослыя і дзеці. Свята пачынаецца тэатралізаваным паказам з удзелам алегарычных персанажаў, якія водзяць карагоды, спяваюць нар. веснавыя песні. Вясна вітае ўдзельнікаў свята. Да аднавяскоўцаў звяртаюцца кіраўнік гаспадаркі, спецыялісты, ветэраны працы, яны заклікаюць любіць і берагчы зямлю, паспяхова правесці сяўбу. Наладжваецца канцэрт мастацкай самадзейнасці. Пасля звароту Вясны да хлебаробаў: «Надышоў час на палі выходзіць, зямлю маладзіць, першую баразну пракладаць. Добрых вам спраў і поспехаў!» — удзельнікі свята ідуць за вёску, дзе адведзены ўчастак для першага заворвання. Трактары выстройваюцца на лінейку гатоўнасці. Пракласці першую баразну даручаецца пераможцам сацыялістычнага спаборніцтва мінулага года. Увечары свята працягваецца ў Доме культуры (клубе), ушаноўваюць механізатараў, якія ўзаралі першыя ўчасткі калгаснага (саўгаснага) поля. Агітбрыгада выступае з канцэртам.

*Н. І. Буракоўская.*



Удзельнікі **Свята горада** ў гонар горада-героя Мінска — гомельскі народны фальклорны тэатр «Жалейка». 1986.

**СВЯ́ТА ПЕ́СНІ**, традыцыйныя масавыя выступленні прафесійных і самадзейных харавых калектываў, найчасцей прымеркаваныя да значных грамадскіх, палітычных ці гістарычных падзей. Праграма С. п. разлічваецца на адзін або некалькі дзён і ўключае творы харавой класікі, сучасных кампазітараў, нар. песні. Удзельнічаюць таксама аркестры (духавыя, сімфанічныя, нар. інструментаў), танцавальныя і інш. ансамблі, салісты (вакалісты, інструменталісты), чытальнікі. С. п. бываюць гарадскія, раённыя, абласныя, рэспубліканскія, міжрэспубліканскія (занальныя). На Беларусі першыя С. п. праведзены 9.5.1948 у Баранавічах у гонар Дня Перамогі (больш за 3 тыс. ўдзельнікаў, кіраўнік Г. Цітовіч), 4.7. 1948 у Мінску ў гонар вызвалення БССР ад ням.-фашысцкіх захопнікаў (больш за 4 тыс. удзельнікаў, дырыжоры Г. Пятроў і А. Бальцэвіч). У Мінску адбыліся таксама С. п. ў гонар 50- і 60-годдзя Кастрычніка (7.11.1967 і 7.11.1977), 40-годдзя перамогі сав. народа ў Вял. Айчыннай вайне (9.5. 1985). С. п. адбыліся ў Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродне і інш. гарадах. С. п. маюць важнае значэнне ў развіцці музычнай культуры краіны, садзейнічаюць далучэнню да музыкі шырокіх нар. мас.

*М. Ф. Піліпенка, А. В. Пякуцька.*

**СВЯ́ТА РЫБАКА́**. Вядома з даўніх часоў. Так, палескія рыбакі адзначалі яго перад пачаткам крыгаходу. У спецыяльна выбраным месцы (у Мазыры, напр., слабодка Кімбараўка) раніцай збіраліся рыбакі са сваімі сем'ямі. Прыносілі снасці для магічнага абраду акурвання іх дымам вогнішча, у якое кідалі шматкі адзення тапельцаў. Лічылася, што гэтыя прадметы прынясуць рыбакам багатыя ўловы. Пасля абраду жанчыны і дзеці ішлі дадому, а мужчыны ў шынок. Дата сучаснага свята Дня рыбака прыпадае на 2-ю нядзелю ліпеня. Праходзіць яно без магічных абрадаў і адзначаецца ўрачыстымі сходамі на рыбапрадпрыемствах, тэматычнымі вечарамі ў культурна-асветных установах, часам гуляннямі на беразе вадаёма. Падводзяцца вынікі перадсвяточнага сацыялістычнага спаборніцтва, ушаноўваюцца яго пераможцы. Наладжваюцца канцэрты мастацкай самадзейнасці і інш. культурныя мерапрыемствы, дзе-нідзе спаборніцтвы рыбаловаў-прафесіяналаў па рамонту снасцей, рыбаловаў-аматараў

на лепшы ўлоў вудамі, на трапнае закідванне блешні спінінга. *І. М. Браім.*

**СВЯ́ТА ЎРАДЖА́Ю,** святкаванне заканчэння ўборкі ўраджаю. Бытуе з 1920-х г. Першыя С. ў. прымяркоўвалі да *пакроваў* — стараж. земляробчага свята заканчэння палявых работ. У ім прымалі ўдзел калектыўныя і аднаасобныя гаспадаркі; праводзілі яго ў школах, хатах-чытальнях, нар. дамах, на плошчах. У падрыхтоўцы свята ўдзельнічалі выканкомы мясцовых Саветаў, партыйныя, камсамольскія і прафсаюзныя арганізацыі. Асноўная мэта першых С. ў.— прапаганда с.-г. вопыту. Суправаджалася выстаўкай узораў сельскагаспадарчай прадукцыі, прылад працы, паказам прыёмаў апрацоўкі і ўгнаення глебы і інш. У час свята дэманстравалі апрацоўку глебы трактарам, арганізоўвалі выстаўку калгаснай прадукцыі, кірмашы. Састаўнымі элементамі С. ў. былі маст. інсцэніроўкі, канцэрты, танцы, гульні, спаборніцтвы (у прыватнасці конныя), часам карнавальныя шэсці. Высокі эмацыянальны настрой святу надавалі духавыя аркестры. Мастацкія рысы С. ў. ўзмацніліся ў 1960—80-я г. Яно ўзбагацілася традыцыйнымі сімваламі дажынкавых абрадаў (апошні сноп жыта, ячменю, лёну, дажынкавы вянок, каравай з зерня новага ўраджаю; гл. *Дажынкі*). Своеасаблівасць свята выражаюць святочныя персанажы «Ураджай», «Колас», «Каласкі» і інш. Праводзяцца парады тэхнікі, выступленні ўдзельнікаў маст. самадзейнасці, спарт. выступленні, конкурсы, латарэі. С. ў. наладжваюцца ў маляўнічых мясцінах (на лясных палянах, берагах рэк і азёр) або ў Дамах культуры, клубах. Змяніліся сутнасць і значэнне свята. Яно стала святкаваннем заканчэння ўборкі ўраджаю, днём падвядзення вынікаў калектыўнай працы, ушанавання пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва.

*В. Ф. Бацяеў, М. Ф. Піліпенка.*

**СВЯ́ТЫ І СВЯТО́ЧНЫЯ ДНІ.** С в я т ы — сукупнасць *звычаяў* і *абрадаў*, якія выражаюць і замацоўваюць пэўныя погляды, пачуцці, адносіны людзей да прыроды і паміж сабою. Узніклі ў першабытным грамадстве. Былі звязаны з каляндарным (напр., *гуканне вясны, грамніцы*) ці земляробчым (гл. *Зажынкі, Дажынкі, Пакровы, Сёмуха, Спас, Юр'я*) цыкламі. У працэсе гіст. развіцця змяняліся, некаторыя адміралі, узнікалі новыя, што адлюстроўвалі новы лад жыцця, інш. погляды. Змест і значэнне іх разнастайныя. Падзяляюцца на рэлігійныя, сінкрэтычныя і безрэлігійныя. Рэлігійныя святы — царкоўныя, у прыватнасці хрысціянскія (раство Хрыстова і інш.). Сінкрэтычнымі святамі (мелі рэлігійныя і безрэлігійныя элементы) былі традыцыйныя каляндарныя нар. святы (*каляды, масленіца, купалле, багач* і інш.). Да безрэлігійнай часткі нар. свят належалі шматлікія гульні, асабліва на калядах, масленіцу, купалле. У час нар. свят спявалі нар. каляндарныя і сямейныя песні (гл. *Каляндарна-абрадавая паэзія, Сямейна-абрадавая паэзія*), выконвалі творы нар. харэаграфіі (гл. *Карагод, Народны танец*), *народнай музыкі*. У нар. каляндарных святах, асабліва ў калядах, ёсць элементы *народнага тэатра*, а рэлігійныя элементы звязаны са стараж. абрадавымі дзеяннямі. Значная частка рэлігійных элементаў з'явілася пад уплывам царквы, якая да нар. свят прымяркоўвала хрысціянскія (да каляд — раство Хрыстова, да валачобнага свята — *вялікдзень*, да купалля — свята Іаана Прадцечы і г. д.). У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. роля рэлігійных элементаў у нар. святах паступова змяншалася. Некаторыя з іх, асабліва стараж. абрадавыя дзеянні, страцілі рэлігійнае значэнне, сталі безрэлігійнымі тэатралізаванымі дзеяннямі, святочнай забавай.

У сав. час з устанаўленнем новых, сацыялістычных грамадскіх адносін, адміраннем рэлігійных перажыткаў адбыліся змены і ў характары нар. свят, сфарміраваліся с в я т ы с а в е ц к і я — штогадовыя ўрачыстасці, прысвечаныя важным гіст. падзеям, грамадскім і паліт. з'явам, знамянальным датам, прафесіям. Яны прасякнуты новым сацыяльным, ідэйным і мастацкім зместам, выражаюць і замацоўваюць матэрыялістычны светапогляд, сацыялістычную мараль, адыгрываюць важную ролю ў камуністычным выхаванні людзей, з'яўляюцца яркай рысай сав. ладу жыцця. Падзяляюцца на грамадска-паліт., працоўныя, мастацкія. Да грамадска-паліт. адносяцца ўсенародныя святы: гадавіна Вял. Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, Дзень нараджэння У. І. Леніна, Першага мая — Дзень міжнар. салідарнасці працоўных, Свята Перамогі сав. народа ў Вял. Айч. вайне 1941—45, Дзень утварэння СССР, Дзень Канстытуцыі СССР, Дзень Сав. Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, Міжнар. жаночы дзень. На Беларусі ўрачыста адзначаюцца юбілеі ўтварэння БССР і КПБ, вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў. Напярэдадні гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі і 1 Мая ў друку публікуюцца Заклікі ЦК КПСС, на прадпрыемствах і ва ўстановах разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва, 7 лістапада адбываецца ваенны парад і дэманстрацыя працоўных, 1 Мая — дэманстрацыя і ўрачысты мітынг працоўных. Да Дня нараджэння У. І. Леніна наладжваецца масавы камуністычны суботнік, адбываецца ўрачысты прыём у піянеры, прысуджаюцца раз у 2 гады Міжнар. Ленінскія прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі» і Ленінскія прэміі. У гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, Свята Перамогі, у Дзень Сав. Арміі і Ваенна-Марскога Флоту ў Маскве, сталіцах саюзных рэспублік, у гарадах-героях і крэпасці-герої Брэсце даецца артылерыйскі салют. На Свята Перамогі ўскладаюцца вянкі, кветкі да курганоў Славы, Вечнага агню, на брацкія магілы сав. воінаў і партызан. Многія грамадска-паліт. святы адзначаюцца ўрачыстымі пасяджэннямі і сходамі, масавымі гуляннямі. Святкуюцца таксама Дзень нараджэння камсамола, Дзень нараджэння піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна, Дзень друку, Дзень касманаўтыкі (Сусветны дзень касманаўтыкі і авіяцыі). Агульнанар. свята — Дзень ведаў. У Дзень сав. моладзі наладжваюцца масавыя гулянні, на плошчах і стадыёнах — выступленні прафесійных і самадзейных калектываў. Адзначаюцца святы, прысвечаныя родам і відам войск. Працоўныя святы прысвечаны работнікам адпаведных галін нар. гаспадаркі і сфер дзейнасці: Дзень сав. навукі, Дзень радыё, Дзень шахцёра, Дзень энергетыка, Дзень савецкага кіно, Дзень настаўніка, Дзень геолага, Дзень хіміка, Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу, Дзень будаўніка, Дзень работнікаў гандлю і інш. У гэтыя святы праводзяцца ўрачыстыя пасяджэнні, сходы, узнагароджваюцца лепшыя работнікі, адбываюцца канцэрты. У асобных гарадах (напр., у Лідзе) адзначаецца гарадское Свята працы, у час якога ўшаноўваюць перадавікоў вытворчасці горада, абвяшчаецца зварот пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва да ўсіх працоўных горада. У некаторых раёнах (Стаўбцоўскі) праводзіцца раённае Свята працы. Асобную групу сав. свят складаюць Свята паэзіі, *Свята песні*, Свята духавой музыкі і інш. Мастацкія святы з'яўляюцца эфектыўнай формай прапаганды лепшых дасягненняў мастацкай культуры сярод шырокіх нар. мас. Новы сацыяльны і ідэйны змест набылі ў сав. час традыцыйныя нар. каляндарныя святы: Новы год, масленіца, купалле, гуканне вясны. У іх узмацняецца роля тэатралізаваных дзеянняў, літаратурных і казачных персанажаў. Нараджаюцца новыя святы, формы святкаванняў (гл. *Абрады*).

У сав. час павялічылася маштабнасць свята, роля масавых шэсцяў, аркестраў, песень. Плошчы, вуліцы, асобныя будынкі і інш. ўпрыгожваюцца флагамі і транспарантамі, гірляндамі, пано, стэндамі. Сярод святочных сімвалічных форм вялікае пашырэнне атрымалі чырвоныя сцягі, стужкі, банты і інш. Найбольш характэрным для сімволікі сав. свят з'яўляецца чырвоны колер. У СССР, як і ў інш. краінах, адзначаюцца Міжнар. дні тэатра, музыкі, музеяў, абароны дзяцей (у гэты дзень праводзіцца конкурс на лепшы дзіцячы малюнак), дзіцячай кнігі, Сусветны дзень моладзі і інш.

С в я т о ч н ы я д н і — дакладна вызначаныя каляндарныя даты свят, свабодныя ад работы дні. У СССР імі з'яўляюцца: 1 студзеня — Навагодняе свята, 8 сакавіка — Міжнар. жаночы дзень, 1 і 2 мая — Дзень міжнар. салідарнасці працоўных, 9 мая —

Дзень Перамогі, 7 кастрычніка — Дзень Канстытуцыі СССР, 7 і 8 лістапада — гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

*М. Ф. Піліпенка.*

**СВЯЦІЛКА**, свяцільніца, адзін з *вясельных чыноў*, які на працягу вяселля насіў, злучаў і запальваў свечкі маладых пры выкананні пэўных рытуалаў. Звычайна былі дзве С.: малодшая сястра маладога (падлетак), а калі яе не было, бліжэйшая пасля яе сваячка; большая сваццёа або сваццяя. Свечкі (адна або дзве) былі ўваткнуты ў акраец хлеба, які трымаўся на вастрыі *шаблі*. Першая С. (падлетак) везла да маладой шаблю і ставіла яе на покуці. Калі маладыя ад'язджалі з дому маладой, С. забірала шаблю, загортвала ў кавалак вузкага палатна і везла на возе разам з маладымі ў дом маладога. Другая С. (сваццця), прыехаўшы да маладой, ішла з шабляй і замацаванай на ёй запаленай свечкай насустрач маці або сваццці маладой, якая трымала ў руцэ запаленую свечку. Затым яны цалаваліся праз парог сенцаў, маці перадавала свечку С., яна злучала яе на шаблі са свечкай маладога. Быў і такі варыянт: трымаючы свечку на шаблі, С. ставіла правую нагу на парог, а маці або сваццця маладой ставіла сваю нагу на яе нагу, цалавалася са С. і скрыжоўвала з ёю рукі, запальваючы ў гэты момант сваю свечку ад свечкі С. Маці і С. зляпілівалі абедзве свечкі «да купы».

*Л. А. Малаш.*

**СВЯЦІЛЬНЯ**, даўнейшае прыстасаванне для асвятлення памяшкання; тое, што і *каганец*.

**СЕВЯРГІН** Васіль Міхайлавіч [8(19).9.1765, Пецярбург — 17(29).11.1826], рускі мінералог і хімік, асветнік. Акад. Пецярбургскай АН (1793). Ганаровы чл. многіх рускіх і замежных навуковых т-ваў, у т. л. Віленскага ун-та (1803). Скончыў ун-т у Пецярбургу, удасканальваў веды ў Гётынгенскім ун-це ў Германіі (1785—89). Адзін з заснавальнікаў рускай мінералагічнай школы. У пач. 19 ст. двойчы пабываў у бел. губернях. Свае ўражанні адлюстраваў у «Записках путешествия па заходніх правінцыях Расійскай дзяржавы...» (1803) і «Працягу запісак...» (1804), дзе змешчаны звесткі пра бел. гарады і пасёлкі, побыт насельніцтва, стан эканомікі і асветы, апісаны прыродныя, гіст. і бытавыя з'явы, Віленскі ун-т.

*С. А. Кузняева.*

**СЕДАЛА**, 1) жэрдка або некалькі жэрдак, прымацаваных у *куратніку* на пэўнай вышыні ад зямлі, на якія садзяцца куры. Лакальная назва курасадня. 2) Гняздо ў куратніку, дзе нясуцца куры або выседжваюцца кураняты.

**СЕЖА**, 1) спосаб палявання, калі звера падпільноўваюць у замаскіраванай засадзе. 2) Замаскіраванае сховішча паляўнічага для падпільноўвання здабычы; звычайна памост на дрэве, будан, зямлянка, зробленыя на звярыных сцежках, такавішчах і інш. 3) Памост над вадою, з якога рыбак сочыць за сеткавым мяшком, апушчаным у ваду.

**СЕЛЬСКІ ЛАД ЖЫЦЦЯ**, жыццядзейнасць людзей ва ўмовах сельскай мясцовасці. Фарміраванне і развіццё С. л. ж. на Беларусі праходзіла ў цеснай сувязі з *земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі і промысламі*. Спецыфіка с.-г. вытворчасці адбілася на распарадку працоўнага дня, вольным часе, абраднасці, фальклоры, прыкладным мастацтве працаўнікоў вёскі.

Ад прыроднага асяроддзя спрадвеку залежалі гаспадарчыя заняткі, размяшчэнне і характар паселішчаў, выбар сыравіны для будаўніцтва жылля, вырабу адзення і абутку, ежа і г. д. Многія формы сямейных і грамадскіх адносін, этнакультурныя традыцыі, якімі на працягу вялікага перыяду характарызавалася жыццё ў бел. вёсцы, узніклі пры першабытнаабшчынным ладзе. З аддзяленнем рамяства ад земляробства многія рамесныя заняткі сталі сродкамі існавання для часткі гар. працоўнага люду; доўгі час яны адыгрывалі значную ролю і ў гаспадарчай дзейнасці сельскіх жыхароў. У перыяд фарміравання старажытнарускай народнасці складваліся агульныя рысы ў жыццядзейнасці ўсх.-слав. народаў: тып сялянскай грамады, формы манагамнай сям'і, аднолькавыя ў сваёй аснове сямейныя і грамадскія абрады, фальклор. З развіццём феадалізму ўсё больш выразнымі станавіліся сацыяльныя адрозненні ў ладзе жыцця сельскага насельніцтва. Асабліва прыкметнымі яны ў жыццядзейнасці феадалаў і прыгонных сялян. Існавалі асаблівасці і ў ладзе жыцця асобных катэгорый сельскага насельніцтва (чэлядзі нявольнай, стральцоў, бортнікаў, баброўнікаў і інш.), абумоўленыя прававым і маёмасным становішчам, родам заняткаў. Умацаванне прыгоннага права павялічвала эксплуатацыю сялянства з боку памешчыкаў, гнёт якіх дапаўняўся дзярж. і царкоўнымі павіннасцямі, нацыянальным прыгнечаннем. З утварэннем і развіццём *гарадоў* вёска паступова падпарадкоўвалася гораду; сканцэнтраваўшы паліт. і эканам. уладу, ён стаў эксплуатаваць вёску пры дапамозе падаткаў, нээквівалентнага гандлю і інш. Узрастанне прывілеглаcці паміж горадам і вёскай абумоўлівала адставанне апошняй у развіцці вытворчых сіл, кансервацыю традыцыйнага ўкладу сельскага жыцця, абмежаваны доступ да адукацыі, навукі, культуры. У грамадскім побыце вёскі важную ролю адыгрывала сялянская грамада, якую складала насельніцтва адной або некалькіх вёсак. Яна несла калектыўную адказнасць за выплату падаткаў дзяржаве, выкананне паншчыны, розных павіннасцей (будаўніцтва і рамонт дарог, мастоў і г. д.), вызначала карыстанне ворнай зямлёй, пашамі, лясамі, вадаёмамі, што знаходзіліся ва ўладанні грамады, наймала пастуха, купляла для агульнага статка бугая, стварала т. зв. магазіны — склады зерня на выпадак неўраджаю. Грамадскае жыццё сялянства ў значнай меры рэгулявалася нормамі *звычаёвага права*. Дзейнасць грамады была пад пастаянным кантролем памешчыкаў, дзяржавы і пад уплывам царквы. Грамадскія праблемы вырашалі сельскі сход галоў сем'яў і выбраныя ім старасты і іх памочнікі. Месца кожнага ў грамадзе, правы і абавязкі вызначаліся сацыяльным і маёмасным становішчам, полам і ўзростам. У грамадскім побыце захоўваліся старажытныя звычаі — *талака, сябрына, бонда*. Пашыраны былі вячоркі, на якія збіралася моладзь для выканання некаторых хатніх работ (прадзення, пляцення), для адпачынку і забаў (танцаў, гульняў). Асобнае месца належала грамадскім святам і абрадам. У іх ліку — *каляды*, навагоднія абрады, *вялікдзень, сёмуха, купалле*, «ваджэнне куста» і г. д. На Беларусі феадальнага часу паралельна існавалі 2 тыпы сям'і: малая (бацькі і іх нежанатыя дзеці) і вялікая (жылі і вялі сумесную гаспадарку некалькі малых сем'яў). Адносіны паміж членамі сям'і, старшынства ў ёй, заключэнне шлюбаў, распараджэнне маёмасцю, усынаўленне і прыняцце ў сям'ю новых членаў, размеркаванне абавязкаў, выхаванне дзяцей, прыняцце рашэнняў у сямейных справах рэгуляваліся сямейным звычаёвым правам, *народнай мараллю* і *народным этыкетам*. Сямейныя адносіны характарызаваліся нераўнапраўным у параўнанні з мужчынамі становішчам жанчын, беспярэчным падпарадкаваннем членаў сям'і бацьку або старэйшаму сыну, калі бацька не мог выконваць функцыі галавы сям'і. Сям'я зберагала і перадавала з пакалення ў пакаленне вытворчы і сацыяльны вопыт, этнічныя сямейныя традыцыі. У ладзе жыцця сельскай сям'і этнічныя асаблівасці і агульнаслав. рысы найбольш выразна выяўляліся ў духоўным жыцці (звычаях, святах, абрадах, вусна-паэтычнай творчасці).

Пашырэнне таварна-грашовых адносін вяло да сацыяльнага расслаення сельскага насельніцтва, пралетарызацыі часткі сялянства, аслаблення сувязей і ўзаемазалежнасці паміж членамі грамады. Пасля ліквідацыі прыгоннага права ў працоўнай дзейнасці большае месца пачалі займаць прамысловыя заняткі, звязаныя з рынкам, пашырыліся адыходныя промыслы, актывізаваліся міграцыйныя працэсы. Аграрнае перанаселенне бел. вёскі побач з сезоннымі перамяшчэннямі ў пошуках заробку выклікала выезд вяскоўцаў на пастаяннае жыхарства або на працяглы час у гарады і за межы Беларусі. З развіццём капіталізму асноўная маса сялянства не пазбавілася сацыяльнага прыгнечання, мяняліся толькі формы эксплуатацыі. Цяжкая праца, недаяданне, дрэнныя жыллёвыя ўмовы, недахоп адзення і абутку, адсутнасць медыцынскай дапамогі, бытавых паслуг

па-ранейшаму характарызавалі матэрыяльны і сацыяльны бакі ладу жыцця сельскіх працаўнікоў. Да таго ж большасць з іх была непісьменнай. У духоўным жыцці побач з фальклорам, рацыянальнымі нар. ведамі пра навакольны свет значнае месца займалі рэлігійныя погляды, абрады, павер'і, забабоны. Пад уздзеяннем капіталістычных адносін вялікія сем'і распадаліся. З адыходам мужчын на заработкі большую самастойнасць і раўнапраўнасць набывалі ў сямейных адносінах жанчыны. Мабільнасць сельскага насельніцтва спрыяльна адбівалася на яго сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці. Сацыяльныя і нацыянальныя матывы ўсё больш пранікалі ў вусна-паэтычную творчасць. Кантакты з перадавымі рабочымі і рэвалюцыйнай інтэлігенцыяй садзейнічалі ўцягненню былых вяскоўцаў у рэвалюцыйны рух. Пры вяртанні ў вёску ўспрынятыя мігрантамі рэвалюцыйныя ідэі пашыраліся ў асяроддзі сельскай беднаты. Перамяшчэнні вясковых жыхароў актывізавалі этнакультурны абмен паміж прадстаўнікамі розных этнасаў, уносілі ў побыт і культуру вёскі элементы гарадской культуры, разбуралі патрыярхальны ўклад жыцця.

У сав. час у С. л. ж. адбыліся карэнныя змены, абумоўленыя паліт., сацыяльна-эканам. і культурнымі пераўтварэннямі (ліквідацыя памешчыцкага землеўладання, нацыяналізацыя зямлі, калектывізацыя сельскай гаспадаркі, культурная рэвалюцыя і інш.). На жаль, калектывізацыя сельскай гаспадаркі была праведзена насуперак ленінскай канцэпцыі, паспешліва, з прымяненнем нават карных метадаў. Доўгі час сялянства абкладвалася празмернымі падаткамі, калгаснікам і іх дзецям перашкаджалі атрымліваць пашпарты і выходзіць з калгасаў. Усё гэта нанесла вялікую шкоду развіццю сацыялістычнай гаспадаркі, прывяло да адчужэння сялян ад земляробчай працы і самой зямлі, пазбаўлення пачуцця гаспадара кааператыўнай уласнасці, зніжэння матэрыяльнай зацікаўленасці ў калектыўнай працы. Але ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва ў С. л. ж. прабівалі сабе дарогу і развіваліся пазітыўныя тэндэнцыі і з'явы. Была знішчана былая эксплуатацыя сялян. Вялікую дапамогу вёсцы стаў аказваць горад, забяспечваючы яе трактарамі, аўтамабілямі, с.-г. механізмамі і інвентаром. Умацоўваўся саюз рабочага класа і сялянства. У вёсцы, як і ў горадзе, усталёўваліся сацыялістычныя вытворчыя адносіны. Сацыяльную структуру яе насельніцтва ўтварылі дружалюбныя грамадскія групы: калгаснае сялянства, рабочыя дзяржгасаў і прадпрыемстваў, сельская інтэлігенцыя. Сялянства нароўні з гараджанамі атрымала шырокі доступ да асветы, навуковых і тэхнічных дасягненняў, культурных каштоўнасцей. У сельскай мясцовасці стала актыўна развівацца сетка школ, клубаў, бібліятэк, магазінаў. Усталяваліся раўнапраўныя сямейныя адносіны, у побыт увайшлі новыя формы правядзення вольнага часу (грамадска-паліт. дзейнасць, вучоба, чытанне кніг, газет, часопісаў, слуханне радыё і інш.). Укаранялася новая, безрэлігійная, абраднасць. Але заставаліся і застаюцца яшчэ істотныя адрозненні ў вытворча-тэхнічных, сацыяльна-эканам. і культурна-бытавых умовах жыцця гарадскога і сельскага насельніцтва. Вёска адстае ад горада ў развіцці сродкаў вытворчасці, тэхнічным забеспячэнні с.-г. работ, іх механізацыі і аўтаматызацыі, энергаўзброенасці, становішчы транспарту і сувязі. Сацыяльна-эканам. адрозненні звязаны са спецыфікай працы, наяўнасцю ў вёсцы дзвюх форм уласнасці (дзярж. і калгасна-кааператыўнай). У культурна-бытавой сферы істотныя адрозненні абумоўлены адставаннем матэрыяльнай базы культуры і службы бытавога абслугоўвання на вёсцы ў параўнанні з горадам, недастатковай упарадкаванасцю сельскіх населеных пунктаў і развітасцю інфраструктуры. Усё гэта адбіваецца на арганізацыі працы і ў пэўнай меры на адносінах да яе, на дабрабыце сельскіх жыхароў, іх адукаванасці і культурным узроўні, структуры і формах правядзення вольнага часу. Істотныя адрозненні паміж горадам і вёскай пастулова сціраюцца шляхам умацавання матэрыяльнай базы сельскай гаспадаркі, пераўтварэння с.-г. працы ў разнавіднасць індустрыяльнай, збліжэння дзярж. і калгасна-кааператыўнай уласнасці, развіцця міжкалгасных і калгасна-дзярж. сувязей, удасканалення размеркавальных адносін, павелічэння ў сельскім насельніцтве долі работнікаў разумовай працы, умацавання матэрыяльнай базы культуры і побыту і інш.

Значныя змены ў С. л. ж. адбываюцца ў наш час. Вырашэнне харчовай праграмы патрабуе ўкаранення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, умацавання сувязі сельскай гаспадаркі са звязанымі з ёю галінамі прамысловасці, удасканалення кіраўніцтва аграрна-прамысловым комплексам, развіцця сацыяльнай і культурна-бытавой сфер жыццядзейнасці сельскіх працаўнікоў. Механізуецца праца паляводаў і жывёлаводаў. З укараненнем гаспадарчага разліку выкарыстоўваюцца прагрэсіўныя формы працы (брыгадны і сямейны падрад, арэнда і інш.). Узмацняюцца калектывісцкія адносіны ў вытворчай дзейнасці, расце адказнасць працаўнікоў за справы калектыву. На многіх жывёлагадоўчых фермах, у рамонтных майстэрнях ствараюцца буфеты, бытавыя пакоі, чырвоныя куткі, дзе ў перапынку можна паглядзець тэлеперадачу, паслухаць лекцыю, пагутарыць або проста адпачыць. З работамі ў калгасе ці саўгасе, у сістэме нар. асветы, культуры, бытавога і медыцынскага абслугоўвання сельскія жыхары спалучаюць працу і ў асабістай гаспадарцы, якая адыгрывае значную ролю ў вытворчасці прадуктаў харчавання для патрэб сям'і і продажу на рынку.

## СЕЛЬСКІ

Земляробчая праца, догляд хатніх жывёл выхоўваюць гаспадарчыя адносіны да зямлі, любоў да роднага краю, яго прыроды, уплываюць на выхаванне працавітасці і інш. добрых маральных якасцей маладога пакалення. Але ў с.-г. вытворчасці яшчэ значная доля ручной некваліфікаванай або малакваліфікаванай працы, нямала недахопаў у арганізацыі працоўнага працэсу, вытворчага побыту, адпачынку, што зняншае прывабнасць с.-г. дзейнасці.

У сацыяльнай структуры сельскага насельніцтва павялічваецца доля рабочых, інтэлігенцыі, служачых. Вясковыя ўмовы жыцця, сувязь з с.-г. вытворчасцю, наяўнасць асабістых гаспадарак падаюць С. л. ж. гэтых груп рысы, якія адрозніваюць яго ад ладу жыцця гарадскіх рабочых, інтэлігенцыі і служачых. Выяўляецца гэта ў працоўнай дзейнасці, структуры і колькасці вольнага часу, абраднасці. Дэмакратызацыя сацыялістычнага грамадства, павышэнне ўзроўню адукацыі і кваліфікацыі сельскіх працаўнікоў спрыяюць росту іх грамадска-паліт. актыўнасці, культурных запатрабаванняў. У вёсцы, як і ў горадзе, дзейнічаюць шматлікія грамадскія арганізацыі (партыйная, прафсаюзная, камсамольская, розныя камісіі сельскіх Саветаў нар. дэпутатаў і інш.). Папаўненне сельскіх гаспадарак выпускнікамі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, пераезд на пастаяннае жыхарства мігрантаў з інш. саюзных рэспублік ускладняюць этнічную мазаічнасць сельскага насельніцтва Беларусі, спрыяюць утварэнню шматнацыянальных калектываў, міжнацыянальных шлюбаў, што вядзе да пашырэння этнакультурных кантактаў і актывізацыі этнічных працэсаў. Змены адбываюцца і ў рассяленні сельскіх жыхароў. Узбуйняюцца цэнтры саўгасаў і калгасаў. У іх будуюцца шматпавярховыя дамы, развіваецца сацыяльна-культурная сфера. Разам з гэтым знікаюць малыя, т. зв. неперспектыўныя, вёскі, што павялічвае міграцыю моладзі ў горад, вядзе да запусцення акультураных ворных зямель, пашы, сенажацей. Празмернае захапленне ўзвядзеннем у вёсцы шматкватэрных дамоў вядзе да скарачэння ўласнага падвор'я, агародаў, садоў, колькасці свойскай жывёлы і птушкі.

Расце дабрабыт працаўнікоў вёскі. Павышаецца іх заработак, уведзена сацыяльнае забеспячэнне на старасць, выплачваецца грашовая дапамога пры часовай непрацаздольнасці і інваліднасці, нараджэнні дзяцей. Спецыялісты і многія рабочыя саўгасаў і калгаснікі атрымліваюць бясплатнае жыллё ў дамах гар. тыпу або індывідуальныя дамы-катэджы. Пашыраецца кааператыўнае будаўніцтва. Большая частка хат будуецца сваімі сіламі. Сучаснае жыллё вяскоўцаў мае шматпакаёвую планіроўку. Акрамя традыцыйных печаў і гру-

бак, у большасці вясковых жыхароў ёсць газавыя пліты. На цэнтр. сядзібах шэрагу саўгасаў і калгасаў будуюцца агульныя ацяпляльныя сістэмы і водаправоды. Гарадскія рысы набывае інтэр'ер сельскіх дамоў і кватэр. Звыклымі яго элементамі сталі мэблевыя гарнітуры, дываны, халадзільнікі, пральныя і швейныя машыны, тэлевізары, радыёпрыёмнікі, магнітафоны. Многія сельскія жыхары маюць уласныя веласіпеды, матацыклы, аўтамабілі. У больш буйных населеных пунктах ёсць магазіны, а на цэнтр. сядзібах калгасаў і саўгасаў — камбінаты бытавога абслугоўвання, лазні, сталоўкі, клубы, Дамы і Палацы культуры, бальніцы, фельдшарска-акушэрскія пункты. Пры неабходнасці вяскоўцы карыстаюцца раённымі паліклінікамі, бальніцамі. Вёскі электрыфікаваны і радыёфікаваны. Паміж імі і раённымі цэнтрамі наладжана тэлефонная сувязь. Амаль усе вёскі звязаны з райцэнтрамі аўтобусным транспартам. Аднак у сацыяльнай сферы жыццядзейнасці сельскіх жыхароў яшчэ нямала нявырашаных пытанняў. Востра адчуваецца недахоп жылля, будаўнічых матэрыялаў і інш. тавараў першай неабходнасці, цяжкасці ў апрацоўцы асабістых зямельных участкаў, забеспячэнні кормам для жывёлы і палівам, недастаткова якаснае медыцынскае, бытавое і культурнае абслугоўванне, неўпарадкаванасць дарог і інш.

Змяняюцца сямейныя адносіны і сямейны побыт на вёсцы. Шлюбы заключаюцца на добраахвотнай аснове. Як і ў горадзе, тут пераважаюць малыя сем'і, большасць з іх складаецца з прадстаўнікоў двух пакаленняў. І ўсё ж сучасная сельская сям'я большая за гарадскую, у ёй больш дзяцей. Жанчына ў сямейных адносінах стала раўнапраўнай і юрыдычна, і фактычна. Нароўні з мужчынам яна прымае ўдзел у грамадскай і грамадска-паліт. дзейнасці. Разам з тым да нашага часу захаваўся і пэўны падзел работ на мужчынскія (нарыхтоўка дроў, касьба сена, рамонтна-будаўнічыя работы і інш.) і жаночыя (прыгатаванне ежы, уборка жыллёвых памяшканняў, мыццё бялізны). Многія вясковыя дзеці наведваюць дзіцячыя сады і, як правіла, усе атрымліваюць сярэднюю або незакончаную сярэднюю адукацыю. Выпускнікі сельскіх школ паспяхова канкуруюць з гарадскімі абітурыентамі пры паступленні ў ВНУ.

Адметнасць С. л. ж. выяўляецца ў вольным часе. Колькасць яго ў сельскіх жыхароў залежыць ад пары года: менш — у перыяд паміж вясеннімі пасяўнымі работамі і ўборкай ураджаю, больш — у зімовы час. У вольны ад асноўных работ час сельскія жыхары займаюцца ўпарадкаваннем дома і двара, доглядам і выхаваннем дзяцей. Папулярныя віды адпачынку — прагляд тэлеперадач, сустрэчы з суседзямі і сваякамі, чытанне, аматарскія заняткі (вязанне, мастацкая самадзейнасць, рыбная лоўля, збор грыбоў і ягад). Многія ў вольны час едуць у горад што-небудзь купіць або да родных, сваякоў. Моладзь ходзіць у кіно, на танцы, займаецца спортам, бавіць час сярод равеснікаў. У перыяд водпуску частка вяскоўцаў адпачывае ў санаторыях, дамах адпачынку, удзельнічае ў турысцкіх паездках. У вёску прыязджаюць лектары, артысты, калектывы мастацкай самадзейнасці шэфаў. Гарадскія Дамы і Палацы культуры памагаюць сельскім культурна-асветным установам арганізоўваць тэматычныя вечары, мастацкую самадзейнасць, ствараць краязнаўчыя і этнагр. музеі, садзейнічаюць развіццю мастацкіх промыслаў.

Адышлі ў мінулае многія традыцыйныя абрады, абрадавыя дзеянні і звычаі. Як і гараджане, вяскоўцы адзначаюць агульнадзярж. святы. Адзначаюцца і традыцыйныя каляндарныя святы: Новы год, масленіца (сучасная назва Праводзіны зімы), купальскае свята і інш. Укараняюцца новыя, спецыфічныя для вёскі, сав. святы і абрады: Дзень працаўнікоў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу, Свята першай баразны, Свята вясны, Свята песні і працы, Свята ўраджаю, абрад пасвячэння ў хлебаробы. Замацоўваюцца новыя сямейныя абрады: урачыстая рэгістрацыя шлюбу ў сельскім Савеце або ў Доме культуры, урачыстая рэгістрацыя нованароджаных, дні нараджэння, наваселлі. Новыя элементы набылі пахавальныя абрады.

Бытавая і культурная сферы С. л. ж. характарызуюцца і цяпер большай кансерватыўнасцю, чым у горадзе. Тут захоўваецца значна больш старых традыцый. Яны яшчэ прыкметныя ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, у прыватнасці, у значна большым сацыяльным кантролі за паводзінамі асобы, сям'і, груп людзей, ва ўплыве на паводзіны вяскоўцаў грамадскай думкі, захаванні правіл нар. этыкету, такіх з'яў, як талака, бонда і інш. Захоўваюцца многія традыцыйныя абрадавыя дзеянні, звычаі, прыкметы, прыёмы нар. медыцыны, кашТоўнасці бел. фальклору, нар. прамысловыя заняткі. У свядомасці і побыце пэўнай часткі сельскага насельніцтва захоўваюцца і рэлігійныя ўяўленні, святы, абрады, магічныя дзеянні. Носьбіты рэлігійнага светапогляду — у асноўным людзі сталага ўзросту; прыхільнікаў рэлігіі сярод маладых людзей мала.

*І. М. Браім.*

**«СЕЛЯЗЕ́НЬ»,** старажытная карагодная гульня (карагод). Адзін з удзельнікаў (селязень) стаіць пасярод карагода і жартоўна паказвае, як скачуць старыя бабы, маладзіцы, хлопцы. Удзельнікі карагода ходзяць і спяваюць: «Селязенька насаты, // Маладзец кудраваты, // Скажы, селязенька, // Як старыя бабы скачуць?» Затым спяваў селязень або другі хор (запіс М. Косіч, 1899). У рухах удзельнікаў выразныя элементы пластычнага пераўвасаблення. На Палессі гульня называлася «Селязня вадзіць» і выконвалася пад музыку. Вядомы і сучасныя запісы «С.» на Беларусі. У некаторых раёнах ролю селязня выконвае «Каза». У гульні праяўляецца культ вадаплаўнай птушкі. «Клікалі вясну», «чыркавалі» ў некаторых раёнах з караваем, на якім узоры з «вутачкамі», з печывам у выглядзе птушак. Селязень («вутачка») — сімвал вясны, кахання, нездарма ён прысутнічаў амаль на ўсіх этапах традыцыйнага вяселля. Вера продкаў у птушак зарадзілася ў глыбокай старажытнасці. Пафарбаваныя яйкі таксама былі абавязковымі ў вясенніх абрадах. Бел. археолагамі знойдзены абломкі посуду з выявамі «вутачкі» і чалавека. Гэта дало падставу лічыць, што вобраз вадаплаўнай птушкі вядомы ўжо ў вераваннях і мастацтве неалітычных плямёнаў.

*А. Ю. Лозка.*

**СЕ́МЕЖАЎСКІХ ЖАБРАКО́Ў МО́ВА,** адна з жабрацкіх *умоўных моў*. Была пашырана ў мяст. Семежава Слуцкага павета. Запісана ў канцы 19 ст. Е. Р. Рамановым. У параўнанні з інш. жабрацкімі мовамі *(любецкім лементам і выцірняцкім гаўрыднікам)* запісана ў значна меншай ступені, што можа тлумачыцца або знаходжаннем яе ў час запісу ў стадыі знікнення, або нежаданнем носьбітаў яе выдаваць пабочным людзям. У запісах адсутнічаюць цэлыя семантычныя групы слоў. Значную частку лексікі складалі бел. словы: вузкадыялектныя («сівор» — мароз, холад, «лог» — чалавек), агульнаўжывальныя бел. словы, зацемненыя ўстаўкамі «-па-» («непалеко» — недалёка), суфіксамі «-імн-» («тонкімный» — тонкі), прыстаўкамі «бе-» («бетак» — так), запазычанні з інш. моў: (з грэч. «клёвый» — добры, «цыра» — зямля; з цыганск. «пянджа» — пяць, з ідыш «махір» — нож). У лексічных і словаўтваральных адносінах зблізкаецца з выцірняцкім гаўрыднікам, аднак адрозніваецца месцам націску ў слове. У фанетычных адносінах характарызуецца асаблівасцямі слуцка-капыльска-мінскіх гаворак: цвёрдым «р» («раха» — жонка), аканнем («хабні» — грошы). С. ж. м. блізкая да ўмоўнай мовы польскіх арыштантаў, а таксама чарнігаўскіх і падольскіх жабракоў. Паступова была выцеснена *адверніцкай гаворкай.* Фальклорных твораў на С. ж. м. не зафіксавана.

*У. М. Свяжынскі.*

**СЕМЯНТО́ЎСКІ** (С е м я н т о ў с к і - К у р ы л а) Аляксандр Максімавіч (1821, Палтаўшчына — 1893), рускі і беларускі этнограф, археолаг, краязнавец. У 1860—90-я г. сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, рэдактар неафіцыйнай часткі «Витебских губернских ведомостей», пазней рэдактар «Памятной книжки Витебской губернии». Аўтар прац па археалогіі, статыстыцы, побыту і культуры насельніцтва Віцебшчыны: «Статыстычнае апісанне Віцебскай губерні ў лясных адносінах» (1862), «Сінільна-набойная вытворчасць у Віцебску»

(1864), «Пра кірмашы Віцебскай губерні» (1867), «Этнаграфічны агляд Віцебскай губерні» (1872), «Аб мерах і вазе, якія ўжываюцца ў Віцебскай губерні» (1874), «Беглы статыстычны нарыс прыроды і насельніцтва Віцебскай губерні» (1880), «Беларускія старажытнасці» (вып. 1, 1890). Запісваў фальклорныя і анапімныя творы літ. паходжання («Рабункі мужыкоў»), звычаі, абрады. У пытаннях этнагенезу беларусаў прытрымліваўся вялікадзярж. поглядаў. *Г. А. Каханоўскі.*

**СЕ́НЦЫ**, зрубная ў выглядзе *трысцена* прыбудова да хаты з боку дзвярэй. Лакальныя назвы сенкі, ляцён, прывен. Раней С. не мелі столі, прыбудоўваліся пад адну страху з хатай. Зрэдку іх рабілі з дошак пад аднасхільнай страхой. Развіліся са звычайнай загарадкі з жэрдак, часам без страхі, якая прыкрывала дзверы для больш надзейнага захавання цяпла ў хаце. У С. знаходзілася хатняе начынне, сталлі жорны, драбіны, па якіх лазілі на гарышча, летам (найб. на Палессі) у С. спалі. Часта ў С. адгароджваецца дадатковае памяшканне — камора. Цяпер да С. або непасрэдна да ўваходу ў хату прыбудоўваюць веранду. *У. С. Гуркоў.*

**СЕ́РБАЎ** Ісак Абрамавіч [15(27).5. 1871, в. Кульшычы Слаўгарадскага р-на — 21.1.1943], беларускі савецкі этнограф, фалькларыст, археолаг. Правадзейны чл. Інбелкульта (1922). Канд. гіст. навук (1934). Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю (1892), Маскоўскі археалагічны ін-т (1918). Працаваў настаўнікам у Хоцімску, Стоўбцах, Мінску, Гомелі, Вільні, Троках. У 1910—12 як чл. Паўн.-Зах. аддзела Рус. геагр. т-ва наладзіў шэраг экспедыцый па Беларусі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі заг. аддзела нар. асветы ў г. Сальцы Наўгародскай губ., у 1919—21 працаваў у Магілёўскім і Гомельскім губ. аддзелах нар. асветы, удзельнічаў у рабоце па зборы і ахове помнікаў мастацтва і гісторыі. З 1923 выкладчык, заг. кафедры этнаграфіі БДУ, з 1929 вучоны сакратар кафедры этнаграфіі, ст. навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР. У Айч. вайну выкладчык Тамбоўскага пед. ін-та. Даследаваў побыт і матэрыяльную культуру беларусаў, у прыватнасці лесарубаў і плытагонаў. Аўтар прац «Сяло Вялікае. Малюнкі з жыцця Беларусі» (1910), «Паездкі па Палессю 1911 і 1912 гг.» (1914), «Беларусы-сакуны» (1915). Сабраў багатыя калекцыі бел. нац. адзення, узораў нар. мастацтва, на аснове якіх выдадзены альбом «Беларускае народнае мастацтва» (1951). Першы ў бел. этнаграфіі шырока займаўся фатаграфаваннем у час экспедыцый, зрабіў каля 5 тыс. фотаздымкаў (зберагліся каля 450), што адлюстроўваюць жыццё, побыт, рамёствы, жыллё, тканіны, карункі, адзенне сялян і прыроду краю. Збіраў вусную нар. творчасць беларусаў, запісваў бел. сав. фальклор. Вёў раскопкі пад Мінскам (1925), даследаваў археал. помнікі ва Ушацкім і Дубровенскім р-нах (1928), стаянкі неаліту ў бас. Проні і Ухлясці (1930). *І. К. Цішчанка.*

**«СЕРБІЯ́НКА»**, сольна-імправізацыйны танец. У ім няма строга ўпарадкаваных фігур, цеснай узаемасувязі паміж выканаўцамі. Кожны скача сам па сабе, стараючыся ў разнастайных рухах выказаць сваё ўмельства. Выконвалі «С.» на вечарынках, у асноўным жанчыны, весела і з запалам. Асноўныя рухі ў «С.» — дробная полька; розныя саскокі на абедзве нагі па другой і чацвёртай пазіцыях; падбіўка; перастукі абцасамі. Найбольш азартныя танцоркі выконвалі элементы з мужчынскага танца. Так, у в. Усохі Быхаўскага р-на жанчыны пускаліся ўпрысядкі і выбівалі хлапушкі. Танец суправаджаўся прыпеўкай: «Сербіяначку скакаць, // Трэба многа песень знаць. // А як знаеш штук пяток, // Так садзіся ў куток». *В. В. Шапавалава.*

**СЕРВІ́ТУТЫ** [ад лац. servitus (servitutis) рабства, падначаленасць], абмежаванае права карыстацца чужой уласнасцю. У эпоху феадалізму на Беларусі найбольшае пашырэнне мелі зямельныя С.— традыцыйнае права сялян карыстацца пэўнымі землямі, што афіцыйна належалі памешчыкам (сенажаці, лясныя ўгоддзі, вадапой, землі для выпасу жывёлы), права праезду, рыбнай лоўлі, збіраць у лесе ягады, грыбы і інш. Карыстанне на пэўных умовах памешчыцкімі ўгоддзямі было значнай падмогай у гаспадарцы сялян, таму яны актыўна змагаліся за захаванне сваіх сервітутных правоў. Сялянская рэформа 1861, у выніку якой скасавана прыгоннае права, пазбавіла сялян гэтых правоў, што выклікала іх масавы пратэст. Паўстанне ў Польшчы, Літве і на Беларусі 1863—64 прымусіла царскі ўрад аб'явіць аб захаванні С. у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губ. і Дзінабургскім, Рэжыцкім, Дрысенскім і Люцынскім пав., што спрыяла, у прыватнасці, развіццю рыбалоўнага промыслу ў парэформенны перыяд. Так, у 1905 у Мінскай губ. рыбным промыслам было занята 2694 чал., у чатырох паветах Віцебскай губ.— 689 чал. Сяляне астатніх паветаў Віцебскай губ. і Магілёўшчыны маглі свабодна лавіць рыбу толькі ў вадаёмах, якія належалі сялянскай грамадзе, і ў вялікіх рэках — Дняпры, Зах. Дзвіне, Сожы, Проні і некаторых іншых. Барацьба сялян за С. ў парэформенны перыяд была састаўной часткай іх барацьбы за зямлю. С. ліквідаваны ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сяляне Зах. Беларусі на працягу 1921—39 вялі актыўную барацьбу з памешчыкамі супраць ліквідацыі С. *І. П. Хаўратовіч, І. М. Браім.*

**СЕРЖПУТО́ЎСКІ** Аляксандр Казіміравіч (21.6.1864, в. Бялевічы Слуцкага р-на — 5.3.1940), беларускі этнограф і фалькларыст. Правадзейны чл. Інбелкульта (1925). Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1884) і Пецярбургскі археалагічны ін-т (1904). Працаваў настаўнікам нар. вучылішчаў на Мазыршчыне і Случчыне (1884—93), у Мінскім аддзяленні сялянскага пазямельнага банка і Мінскім паштова-тэлеграфным ведамстве (1893—96), на паштамце ў Пецярбургу (1896—1906), у этнагр. аддзеле Рус. музея ў Ленінградзе (1906—30). Праводзіў вял. даследчую, навукова-педагагічную і грамадскую работу: узначальваў падкамісію ў Камісіі па складанню этнагр. карт і вывучэнню нацыянальнага складу насельніцтва Расіі пры АН, аналагічную камісію ў Рускім геагр. т-ве (РГТ, 1922—23), выкладаў у рабочым нядзельным ун-це (1919—20), бел. школе (1918—23) у Петраградзе. У час працы настаўнікам і ў экспедыцыях па даручэнню Рус. музея сабраў на Беларусі багаты этнагр. і фальклорны матэрыял. У этнагр. нарысе «Беларусы-палешукі» (1908, рукапіс) апісаў



А. К. Сержпутоўскі.

пабудовы, побыт, звычаі і вераванні сялян Мазыршчыны і Случчыны. Даследаваў земляробчыя прылады працы, бортніцтва, заняткі, звычаі сябрыны, талакі і інш. («Нарысы Беларусі», 1907—09; «Земляробчыя прылады Беларускага Палесся», 1910; «Бортніцтва на Беларусі», 1910); вывучаў таксама побыт рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў, татараў, народаў Каўказа. Выдаў зборнікі «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў» (1911), «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета» (1926), «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» (1930). Захаваўся рукапісны зб. «Беларускія песні», у якім змешчаны 53 тэксты, запісаныя ў канцы 90-х г. у Мазырскім пав. Рукапісныя зборнікі «Песні Магілёўшчыны» і этнагр. праца «Быт беларусаў» не захаваліся. У 1908 падрыхтаваў да друку зборнік бел. прыказак з слоў-

нікам (збераглася частка рукапісу), за што атрымаў малы залаты медаль Аддзялення этнаграфіі РГТ, а таксама зборнік «Беларускія прыказкі і прымаўкі, запісаныя ў Мазырскім павеце» (1912). Вывучаў дыялекты бел. мовы («Граматычны нарыс беларускай гаворкі в. Чудзіна Слуцкага павета Мінскай губерні», 1911), падрыхтаваў да друку «Кароткі слоўнік беларускай дзіцячай мовы» (1919, не захаваўся). У час. «Чырвоны шлях» (1918) апублікаваў шэраг артыкулаў пра станаўленне бел. народнасці, пра паходжанне і сутнасць рэлігіі, а таксама серыю публіцыстычных нарысаў (пад псеўданімам Навум Смага) у рубрыцы «Малюнкі Беларусі», у якіх апісаў гаротнае жыццё бел. сялян у дарэвалюцыйны час. Рукапісная спадчына С. захоўваецца ў Музеі этнаграфіі народаў СССР (Ленінград), Рус. музеі, АН СССР (Ленінградскае аддзяленне), АН БССР.

*У. К. Касько.*

**СЕРП,** прылада для ўборкі збожжавых культур (жыта, ячменю, пшаніцы, проса, аўса і інш.). Вядомы з глыбокай старажытнасці (каменны, бронзавы). Да канца 19 ст. С. рабілі з жалеза, якое выплаўлялі ў рудніх з мясцовай балотнай руды, рэжучую частку зазубрывалі. На Беларусі паўсюдна бытавалі С. паўкруглыя (сферычныя) і падоўжаныя (авальныя). У авальных даўжыня ад пачатку ручкі да канца рэжучай часткі (клінок) па прамой лініі 40—43 см, шырыня ляза 2,5—3 см, разрэз насечкі зубоў прыкладна 2 мм, даўжыня драўлянай ручкі 13 см. Паўкруглы С. карацейшы: даўжыня ляза па прамой лініі 30—32 см. Жаць ім было лягчэй. З канца 19 ст. большасць С. выраблялася на заводах, шмат іх прывозілі на Беларусь з Цвярской губ. Мясцовыя кавалі таксама рабілі С. са старых кос. Перад жнівом С. зазубрывалі, тачылі іх рэжучую частку. Звычайна ў гаспадарцы кожная жняя мела свой С. Захоўвалі іх да пачатку жніва ў сухім месцы (у гумнах, павецях, кладоўках, сенцах), пры гэтым рэжучую частку абкручвалі сухой анучай. С. жалі яшчэ ў 1950—60-х г. У наш час у калгасах і саўгасах збожжавыя культуры ўбіраюць камбайнамі і інш. машынамі; С. нажынаюць першы ці апошні сноп *(зажынкі, дажынкі).*



**Сярпы.**

*Л. І. Мінько.*

**СЕ́ТКА,** 1) традыцыйная рыбалоўная снасць. У вадзе нагадвае сеткавую сцяну з аднаго, двух ці трох сеткавых палотнішчаў, прымацаваных па даўжыні да двух вяровак (верхняя аснашчана паплаўкамі, ніжняя — грузіламі). Сеткавай сцяной перагароджваюць шлях рыбе, якая, імкнучыся пераадолець перашкоду, заблытваецца ў вочках С. Для Беларусі характэрны 1- і 3-сценныя сеткі *(трыгубіца).* С. ўстанаўлівалі на пэўны час у вадаёме (стаўныя С.), сплаўлялі за цячэннем ракі (плаўныя С.) ці, ахапіўшы ёю частку вадаёма, заганялі ў яе рыбу *байтом* (загонныя С.). Стаўныя і загонныя С. аснашчалі паплаўкамі і грузілі так, каб яны апускаліся да дна вадаёма, плаўныя — каб знаходзіліся ля паверхні вады. Аднасценныя С. былі пераважна стаўныя (акрамя *ўклейніцы*). Памер іх вочка залежаў ад таго, для лоўлі якой рыбы прызначалася снасць. Так, паазерскія рыбакі лавілі ляшчоў «лешчаніцай» (шаг вочка 70—80 мм); акунёў — «акунёўкай» (шаг вочка 30—40 мм); плотак — «плотачным ператонам» (шаг вочка каля 30 мм); сяляву — «сяляўнай» С. (шаг вочка каля 15 мм). Аднасценныя С. былі найбольш пашыраны ў Паазер'і, сустракаліся і на Магілёўшчыне. На возеры Нарач ужываўся т. зв. кругавы спосаб лоўлі рыбы аднасценнай сеткай. У пэўным месцы возера (з дапамогай якара) устанаўліваўся паплавок, да якога прывязвалі адзін канец С., а другі мацавалі да лодкі. Адплывалі ад паплаўка на адлегласць закінутай у ваду С., рабілі вакол яго круг, зноў падплывалі да паплаўка і выбіралі снасць з уловам у лодку (адсюль назва круг-сетка). У наш час выкарыстанне С. дазволена толькі ў прамысловым рыбалоўстве. 2) Прыстасаванне для лоўлі звяроў і птушак. Паводле археалагічных дадзеных, лоўля С., як від паляўніцтва, узыходзіць да эпохі верхняга палеаліту. У пісьмовых крыніцах упершыню згадваюцца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1091 г. Кадыфікавана дзяржавай у 11 ст. ў «Рускай праўдзе».

Плялі С. з моцнага шнура з вочкамі рознай велічыні. Паводле прынцыпу дзеяння С. падзяляліся на самалоўныя, у якіх дзічына заблытвалася сама, і падрыўныя, якія патрабавалі прысутнасці паляўнічага. Падрыўныя накрывалі здабычу або перагароджвалі ёй выхад з сеткі, як толькі чалавек тузаў за сімку. Самалоўныя С. рабілі пераважна ў тры рэдзі (губы, палотны, столкі) — дзве рэдкія бакавыя і адна густая (або рэдкая) паміж імі. У залежнасці ад прызначэння адрозніваліся формай і памерамі. Адны знешне нагадвалі звон або каўпак і асаджваліся на абручах або дугах; другія мелі два крылы і матню; трэція, напрыклад завесы, нацягваліся на кляпцах (жэрдках); чацвёртымі перакрывалі або перагароджвалі значныя дзялянкі лесу і заганялі ў іх дзічыну. Напрыклад, С.-полы мелі больш за 100 м даўжыні і 3 м вышыні. Паходнямі лавілі са штучным асвятленнем, лятухамі — птушак у лёце, платамі — ваўкоў і мядзведзяў, званамі, шатрамі, завесамі, волакамі, плахтамі, стажкамі, раз'ездамі, трыгубіцамі — курапатак і цецерукоў, парканамі (са шнура ў мезенец таўшчынёю) і вільдгорнамі — казуль, аленяў і ласёў, платкамі і поламі — курапатак, слонак. Найбольш старажытныя лоўчыя С.— цянёты і перавесы. Апошнія шырока ўжываліся ў 11—13 ст. Іх устанаўлівалі на высокіх кляпцах (драўляныя падпоры, жэрдкі) у месцах сутачнага і сезоннага лёту птушак, на лясных прасеках, берагах рэк. Пры дапамозе адмысловай сістэмы петляў, кольцаў і шнуроў сетка імгненна ўзнімалася перад птушынай чарадой. Месцы, дзе ставілі перавесы,— перавесішчы — высока цаніліся і перадаваліся ў спадчыну. У наш час сеткамі ловяць выключна толькі ў навуковых, гаспадарчых і гандлёвых мэтах.

*І. М. Браім, С. Ф. Цярохін.*

**СЕТКАВЯЗА́ННЕ,** выраб сеткавага палатна для *рыбалоўства.* Вядома са страж. часоў, пра што сведчаць археалагічныя знаходкі грузілаў да сеткавых снасцей (датуюцца жалезным векам). У эпоху феадалізму вязанне сеткавага палатна для панскіх невадоў было павіннасцю прыгонных сялян. Паводле пісьмовых крыніц 18 ст., *сеткі* вывозілі за межы Беларусі (напр., у Рыгу). У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вытворчасць сетак на продаж асабліва пашырылася ў Паазер'і. Сеткі збывалі скупшчыкам на месцы або прадавалі на рынках. Рамеснікі Вілейскага пав. (з в. Насенкі, Круці, Лук'янавічы, Азаркі) вазілі прадаваць сеткі ў Мядзел, а сеткавязальшчыкі з Новааляксандраўскага пав. (з Браслаўскай, Краснагорскай, Друйскай, Рымшанскай, Салокскай валасцей) — у Відзы (тут штогод 20 ліпеня — на Ілллю — адбываўся кірмаш, на якім галоўным прадметам гандлю былі сеткі). З мяст. Усвяты Віцебскай губ. сеткі экспартаваліся нават у Аўстрыю. Беззямельныя сяляне выраблялі іх круглы год, для многіх з іх С.



Аднасценная сетка.

было асноўнай крыніцай існавання. Сяляне, якія мелі зямлю, займаліся С. пераважна зімой (за зіму добры спецыяліст вырабляў да 200 саж сеткавага палатна) ці ў вольны ад с.-г. работ час. У вырабе сетак нароўні з мужчынамі ўдзельнічалі жанчыны і дзеці.

Сыравіну для нітак (лён) куплялі ў гандляроў. Асноўныя прылады для С.— *іглiца* (чоўнік з ніткай) і більца, шырыня якога вызначала памер вочак. Пачыналі вязаць сеткавае палатно, карыстаючыся, як правіла, кавалкам старой сеткі. Канец ніткі, наматанай на іглiцу, прывязвалі да крайняга левага вочка, вывязвалі некалькі радоў новых вочак, затым частку іх адразалі, крайні рад нанізвалі на вяровачку ці тоўстую нітку і давязвалі сетку да патрэбнай даўжыні. Калі старой сеткі не было, пачыналі вязаць з нуля: паміж двума цвікамі (калочкамі) нацягвалі шнур ці тоўстую нітку, навязвалі на



Вязанне **сеткі.** Ігуменскі павет Мінскай губерні.

яе рад паўвочак (край будучай сеткі) і далей вязалі сеткавае палатно патрэбнай даўжыні. У працэсе С. іглiцу трымалі ў правай руцэ, дошчачку ў левай; вязалі злева направа. У наш час сеткавае палатно вырабляюць на фабрыках сеткавязальнымі машынамі з сінтэтычных матэрыялаў. *І. М. Браім.*

**«СЕЮ, СЕЮ МАК»,** дзіцячая гульня. Спачатку гульцы выбіралі «сяўца» і «паніча», усе астатнія станавіліся «макаўкамі». Удзельнікі гульні рассаджваліся па лаўках, «паніч» — каля стала ці воддаль. «Сявец» выходзіў на сярэдзіну хаты і рукамі імітаваў працэс сяўбы, пры гэтым спяваў: «Сею, сею мак, // Няхай будзе так, // Спытаюся ў паніча, // Ці ўсё раблю так». Затым падыходзіў да «паніча» і пытаўся ў яго, ці ўсё робіць правільна. Калі той рабіў якія заўвагі, «сявец» павінен быў сеяць нанава, калі не — падыходзіў да астатніх гульцоў і пачынаў па аднаму выводзіць іх на сярэдзіну хаты, пры гэтым спяваў: «А на гары мак, // А ў даліне так, // А мае ж вы маковачкі, // Залатыя галовачкі, // Станьце ж вы ў рад, // Як беленькі мак». Потым абыходзіў вакол гульцоў, прыцяваючы: «А на гары мак,//А ў даліне так,//Спытаюся ў паніча,//Ці паспеў мак». Зноў ішоў да «паніча» і пытаўся: «Паніч, паніч, ці паспеў мак?». Калі той даваў адмоўны адказ, «сявец» вяртаўся да «маку», паўтараў песню і пасля зноў пытаўся ў «паніча», ці паспеў мак (гэта магло паўтарацца некалькі разоў запар). Але «паніч» звычайна з першага разу адказваў станоўча: ён ведаў, што калі будзе многа ганяць «сяўца», то яго самога таксама паганяюць. У канцы гульні «сявец» і «паніч» «рвалі» мак: жартам тузалі «макаўкі», а тыя разбягаліся па хаце. Пасля зноў выбіралі «паніча» і «сяўца», гульня пачыналася нанава. Пашырана ў Цэнтр. і Усх. Беларусі. Блізкая да карагода *«Мак»*.

*В. Дз. Ліцвінка.*

**СЁМУХА,** т р о й ц а, з я л ё н ы я с в я т к і, старажытнае земляробчае свята ў беларусаў і інш. славянскіх народаў. Лакальная назва зеленец. Святкавалася на сёмы (русальны) тыдзень пасля *вялікадня*. Вытокі С. ў родавым грамадстве; у аснове яе культ зеляніны, шлюбу і прадкаў. Пераходнае паміж веснавым і летнім земляробчымі цыкламі («На зеленец вясны канец»). Перад святам прыбіралі і ўпрыгожвалі хату і двор «маем» (аерам, галінкамі і дрэўцамі бярозы, клёну, рабіны, дубу і інш.); прыбіралі магілы. У суботу напярэдадні свята спраўлялі *дзяды*. Як пазнейшую з'яву трэба разглядаць асвячэнне ў нядзелю (першы дзень свята) у царкве лугавых і палявых зёлак, якія потым захоўваліся (у некаторых мясцовасцях імі абкурвалі нябожчыкаў, клалі іх у труну). Залежна ад мясцовых традыцый на другі ці іншы дзень рабілі т. зв. «піва», кірмашы ці фэсты (прымяркоўваліся і да інш. свят), на якія збіраліся сваякі, нават далёкія. У час свята ў некаторых мясцовасцях адбывалася *кумаванне*, завівалі бярозку, ладзілі гульні, *карагоды*, потым агульнае частаванне, вілі вянкі. З вянкамі, «маем» звязаны ўяўленні, якія мелі раней характар магічных дзеянняў. На С. спявалі сёмушныя (траецкія) песні, матывы кахання і шлюбу ў якіх з'яўляюцца асноўнымі (у пaўд.-зах. раёнах спявалі яшчэ куставыя песні, гл. ў арт. *Куст*). На С., перад пачаткам летніх палявых работ, на Беларусі спраўлялі шмат вяселляў. Свята тройцы ўведзена ў культавую практыку праваслаўнай царквы ў 14 ст. Сергіем Раданежскім. Хаця С. і зліласл з гэтым святам, яна захавала многія рысы язычніцтва і земляробчага культу. *А. В. Цітавец.*

**СІКАЎКА,** прыстасаванне для абпырсквання прывітых на высокіх дрэвах раёў. Рэгіянальныя назвы: пырскач, помпа бортная. Вырабляюць з маладой хваінкі. Складаецца з круглага цыліндрычнага, часта арнаментаванага геаметрычнай разьбою корпуса (даўжыня 55—65 см, таўшчыня 8—10 см) са



Сікаўкі.

скразной падоўжанай адтулінай і поршня з ручкай на адным і палатнянай абмоткай-ушчыльнікам на другім канцы. Набраная ў С. вада распырсквалася пад ціскам на адлегласць да 10 м. Дазваляла аграбаць раі ў тых месцах, куды нельга было дабрацца з *накропам* і вядром вады. *С. Ф. Цярохін.*

**СІЛО,** 1) самалоўнае прыстасаванне, дзеянне якога заснавана на зацягванні пятлі вакол лапы, шыі або тулава дзічыны. Ужывалася з глыбокай старажытнасці для лоўлі баравых і балотных птушак, дробных і буйных звяроў. У залежнасці ад аб'екта, месца і часу палявання бытавалі ў некалькіх разнавіднасцях (кожная мела сваё канкрэтнае прызначэнне і назву). Курапатак зімою, калі вялікія маразы гналі іх да чалавечага жылля, лавілі на загумені *колам.* Пружкамі (невялічкае С. з петлямі на шнурку), прывязанымі пад гронкамі рабіны, сілілі рабчыкаў.

Для лоўлі дупеляў ужывалі понажы — шматметровыя моцныя шнуры з мноствам валасяных петляў, прывязаных на адлегласці 15—20 см адна ад другой. Понажы падвешвалі на калках у 25—30 см ад зямлі і аблытвалі імі амаль




Сілкі: 1 — пружкі; 2 — понажы; 3 — пятля; 4 — трыгубіца.

усё такавішча. Шырока распаўсюджаны былі адзінарныя петлі з валасоў, шнуркоў і дроту. Імі лавілі як птушак, так і звяроў. Устанаўлівалі петлі на звярыных пераходах, каля нор і на такавішчах двума спосабамі — «на зашморг» і «на падрыў». У першым выпадку звер сам зацягваў на сабе пятлю, якую прывязвалі да ўбітага ў зямлю калка або да галіны куста ці дрэва. Калі пятлю ставілі «на падрыў», яе прывязвалі да сагнутай і зашчэмленай вершаліны маладога дрэўца. Калі звер пападаў у пятлю, то вызваляў вершаліну з-пад сучка, яна распрамлялася і падымала здабычу над зямлёю. На Палессі так лавілі вясною качуроў, прывабліваючы іх манькутай (падсадной качкай на драўляным крузе) або чучалам да паснужаных пруткоў з валасянымі петлямі. У наш час лоўля усімі відамі С. забаронена і аднесена да браканьерства.

2) П я т л я, традыцыйная рыбалоўная прылада, якой лавілі пераважна невялікіх шчупакоў, што ў летнюю спякоту стаяць бліз паверхні вады. Да канца тонкай палкі прымацоўвалі лёску (з конскага воласу), завязаную пятлёй, апускалі яе ў ваду, падводзілі пад шчэлепы шчупака і, зацягнуўшы яе рэзкім рухам, выкідвалі рыбіну на бераг ці ў лодку. Лавілі С. звычайна дзеці і падлеткі. Вядома на ўсёй Беларусі. *І. М. Браім, С. Ф. Цярохін.*

**СІНЯЎСКАЯ КЕРА́МІКА**, традыцыйныя ганчарныя вырабы майстроў з вёсак Сіняўка, Ганявічы, Масцілавічы, Забалатнікі Клецкага р-на. У 19—1-й пал. 20 ст. тут працавала каля 200 ганчароў. Выраблялі чорназадымлены і гартаваны посуд гаспадарчага прызначэння: гаршкі, міскі, гладышы, макатры і інш. Фармоўка з буйназярністай масы на нажным ганчарным крузе вызначыла асноўныя асаблівасці С. к.: простыя лаканічныя прысадзістыя формы сівавата-чорнага колеру (чорназадымленыя) ці аздобленыя чорна-карычневымі плямамі на тэракотавай шурпатай паверхні чарапка з украпінамі жарствы (гартаваныя). З пач. 1980-х г. промысел не існуе. Калекцыі С. к. захоўваюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ БССР і інш. *Я. М. Сахута.*

**СІРАТА́**, дзіця або падлетак, які застаўся без аднаго або без абодвух бацькоў. У некаторых рэгіёнах пашырана назва сіраціна.

**СІТА**, 1) драўляная рама з рагожнымі або драцянымі сітамі для правейвання збожжа, якую на вяроўках падвешвалі да бэлькі. 2) Прыстасаванне ў выглядзе дробнай сеткі або металічнага ліста з дробнымі адтулінамі для прасейвання, працэджвання або сартавання чаго-небудзь.

**СІТАК**, прыстасаванне для аховы твару, шыі і плячэй ад пчаліных джалаў у час работы пчаляра на пасецы. Рэгіянальныя назвы: сітца, сітцо, сетка, каробачка. Складаецца з авальнай лубяной каробачкі, абцягнутай перад тварам чорнай валасяной сеткай, а ззаду — капюшонам з белага палатна. Часта сетка і капюшон падшываліся да саламянага брыля.

**СКАВАРО́ДНІК**, печыва з хлебнага цеста, якое ўжо замешана, але яшчэ не падышло. Цеста абгладжваюць вадой, потым тыкаюць яго пальцам, каб не расколвалася. Часам у цеста



Сіняўская кераміка.

дадаюць драную бульбу. Пякуць на патэльні пры агні або на гарачым вуголлі. Калі пякуць прама на чарэні, называюць таксама праснак, выхапень, хапун, перапечка, перадпаломнік, сачэнь і інш. Вядомы С. па ўсёй Беларусі.

**«СКАКУ́ХА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. У некаторых рэгіёнах Віцебшчыны, Брэстчыны, Гомельшчыны «С.» бытавала ў выглядзе вясёлага вясельнага танца. Удзельнікі ўзбіраліся на лавы, што стаялі вакол сталоў і, хто ў пары, хто па аднаму, скакалі на адной або дзвюх нагах, часам датуль, пакуль не зламаецца лава. На Койданаўшчыне жаніх, нявеста і ўсе ўдзельнікі вяселля ўзбіраліся на лавы, браліся за рукі і бегалі па іх вакол сталоў. Часам бегалі толькі жаніх і нявеста, яны стараліся адзін аднаго дагнаць. Госці пры гэтым скакалі на падлозе, падбадзёрваючы мала-

дых выкрыкамі. У Міёрскім р-не адзін танцор станавіўся на карачкі, пры гэтым трымаўся за шчыкаладкі ног спераду другога танцора. Другі танцор лажыўся на першага зверху і трымаў яго за шчыкаладкі ног ззаду. Першы танцор, калі разгінаў корпус, адначасова падымаў уверх ногі другога і апускаў іх на падлогу, але ўжо далей ад зыходнага становішча. Верхні танцор падымаў за ногі ніжняга і ставіў іх бліжэй да яго рук. Такім чынам яны прасоўваліся па крузе. На Случчыне «С.» называлі момант на хрэсьбінах, калі бабу падымалі ўверх на засланцы ад печы і пры гэтым падскоквалі.

На Гомельшчыне, Магілёўшчыне і Віцебшчыне «С.» была пашырана ў выглядзе вясенняй гульні. На бервяно клалі дошку, на яе з двух канцоў станавіліся па аднаму або па некалькі чалавек. На адным канцы падскоквалі ўверх і апускаліся ўніз, гэтым самым падкідвалі ўверх удзельнікаў гульні, якія стаялі на другім канцы дошкі. Перамагаў той, хто вышэй падкідваў свайго партнёра, або той, хто скідваў саперніка з дошкі. Зафіксавана экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у розных рэгіёнах са значнымі рэгіянальнымі адрозненнямі.

*А. Л. Варламаў.*

**СКАМАРО́ХІ,** народныя акцёры. Выступалі як музыкі, спевакі, выканаўцы сцэнак, дрэсіроўшчыкі звяроў, акрабаты, лялечнікі і інш. Генетычна мастацтва С. звязана з язычніцтвам. Тэрмін С. паявіўся ва ўсх. славян у балгарскіх перакладах з грэч. мовы ў 8—9 ст. На Беларусі выявы С. зафіксаваны ў археалагічных знаходках 12 ст. з Навагрудка (вухавёртка з фігурай музыкі) і Ваўкавыска (шахматная фігурка ў выглядзе барабаншчыка). Захаваліся выявы С. у Аршанскім евангеллі (13 ст.), на мініяцюрах Радзівілаўскага летапісу (15 ст.), упамінаюцца ў прапаведзях Кірылы Тураўскага (12 ст., першае ўпамінанне на Беларусі тэрміна «С.») і творах пазнейшых аўтараў. Вядомы аселыя і вандроўныя С. Аселыя стала жылі ў гарадах і мястэчках, часта мелі зямельны надзел і былі цесна звязаны з пэўнай гульнёвай нар. традыцыяй, удзельнічалі ў каляндарных і сямейных святах і абрадах (*каляды, русаллі*, нар. вяселле) і тым самым спрыялі развіццю іх тэатральна-гульнёвага пачатку. Вандроўныя С. не былі звязаны з якой-небудзь рэгіянальнай мастацкай традыцыяй і клапаціліся найперш пра ўзбагачэнне свайго рэпертуару. Дыферэнцыяцыя мастацтва С. яшчэ ў часы Кіеўскай Русі спрыяла росту іх майстэрства. На Беларусі былі вядомы С.-музыкі (дудары, гусляры, скрыпачы, цымбалісты), мядзведнікі (навадыры мядзведзяў), бахары (апавядальнікі баек, казак), штукары (гімнасты, ілюзіяністы), лялечнікі і інш. Існавалі спецыяльныя вучэльні-школы, найбольш вядомая з іх т. зв. *«Смаргонская акадэмія»*. У параўнанні з Маскоўскай дзяржавай, дзе С. зазналі ўціск з боку царкоўных і свецкіх улад і нават забарону творчай дзейнасці (1648 і 1657), на Беларусі яны мелі адносна больш спрыяльныя ўмовы для свайго мастацтва і дажылі да пачатку 20 ст. (апошні паказ С. з антырэлігійнай сатырай «Велікодныя яйкі» зафіксаваны ў 1925 у в. Астроўна Віцебскай вобл.). С. ўзбагачалі і плённа развівалі нар. тэатральнае мастацтва. Шырокае развіццё аматарскага і прафесійнага тэатра прывяло да знікнення скамарохства як пэўнай мастацкай з'явы. Традыцыі мастацтва С. выразна адчуваюцца ў разнастайных формах нар. гульнёвай культуры. Памяць пра іх данеслі да нас інвентары сярэдневяковых гарадоў і паселішчаў (Магілёва, Віцебска, Пінска, Смаргоні і інш.), назвы вёсак (Скамарошкі ў Гродзенскім і Стаўбцоўскім р-нах) і мясцін («Скамарошыя могілкі» на Віцебшчыне), творы літаратуры і мастацтва.

*М. А. Каладзінскі.*

**СКА́РБНІЦА,** гаспадарчая пабудова ў замкава-палацавых і сядзібных комплексах для захоўвання найбольш каштоўных рэчаў, зброі і інш. На Беларусі вядома ў 16—19 ст. Будавалі з каменю, цэглы, дрэва, часам аб'ядноўвалі з капліцамі, жылымі і гаспадарчымі пабудовамі (Іўе, Копысь Аршанскага р-на). Тыпы пабудоў: франтальны (в. Варонча Карэліцкага р-на) і цэнтрычна-ярусны, з кругавой балюстраднай галерэяй (в. Грозаў Капыльскага р-на). Дзверы звычайна падвойныя — вонкавыя (дубовыя) і ўнутраныя (жалезныя), вокны з металічнымі кратамі.

*Ю. А. Якімовіч.*



Сітак.



Пчаляр у сітку.



Скарбніца сядзібы ў вёсцы Варонча Карэліцкага раёна. Пачатак 20 ст.

**СКІ́НДАЧКА,** дзявочы галаўны ўбор. Называлі таксама апаяска, завязка, шырынка. Кроілі ў выглядзе ручніка з даматканага кужэльнага палатна рознай танальнай адбелкі, радзей з белага наркалю або чырвонай у бела-блакітныя папярочныя паскі бавоўнянай даматканкі (шыр. 10—30, даўж. 70—140 см). Завязвалі на патыліцы так, каб не закрывала макаўку галавы, а свабодныя канцы звісалі на спіну ці грудзі. Шылі С. з 3 частак — вузкай сярэдняй і шырокіх бакавых. Шырокія С. складвалі па даўжыні ў 2—4 столкі; у тую частку, што абвязвала галаву, устаўлялі паперу, кардон, луб або падшывалі палатно. Святочныя С. аздаблялі вышыўкай (крыжыкам, працягам, мярэжкай, гафтам), узорыстым





Дзяўчына ў **скіндачцы.** Светлагорскі раён. Пачатак 20 ст.

**Склеп.** Вёска Дзямянчыцы Камянецкага раёна.

натыканнем, карункамі, мохрыкамі, аплікацыяй і інш. Часцей выкарыстоўвалі геаметрычны арнамент: па канцах С. размяшчалі шырокі ўзорысты шляк, адзін або два падоўжныя бакі аздаблялі вузкімі ўзорыстымі паскамі. Каларыт арнаменту чырвона-малінавы з чорнымі ці блакітнымі ўкрапінамі, радзей белы з чырвоным. У вясельным касцюме С. дапаўняў вянок з кветак. Шырока бытавала да канца 19 ст. амаль па ўсёй Беларусі, а ў 1-й пал. 20 ст. захавалася ў *калінкавіцкім строі.*

*М. Ф. Раманюк.*

**СКЛЕП,** 1) п о г р а б, заглыбленая на 1,5—2 м у зямлю гаспадарчая пабудова для хавання бульбы, гародніны, квашаніны, бярозавіку, улетку — малака. Рэгіянальная назва лёх. Генетычна звязаны з *зерневымі ямамі.* Уяўляе сабой прамавугольную, абшытую дубовымі плашкамі або абмураваную каменнем ці цэглай яму з 2-схільнай саламянай, пазней драўлянай (дошкі, гонта, шчапа) страхой над уцепленым гарызантальным перакрыццём з квадратным люкам і невялікай адтулінай («варонкай») знадворку для засыпання бульбы і інш. Прастора паміж перакрыццём ямы, схіламі страхі і шчытамі, у адным з якіх робяць дзверы, утварае пографню, дзе звычайна трымаюць пустыя бочкі і іншае гаспадарчае начынне сезоннага карыстання. Пры адсутнасці над ямай гарызантальнага перакрыцця страху С. робяць з дубовых плашак, абкладваюць мохам, кастрыцай або жытняй саломай, зверху прысыпаюць пластам зямлі таўшчынёю да 20 см. Адсутнасць пографні ў С. такога тыпу кампенсуецца прыгрэбіцай — невялікай накшталт сенцаў прасторай паміж знадворнымі



**Скоблі.**

і ўнутранымі дзвярыма. Там, дзе пад глебай залягае магутны пласт гліны (напр., у Падняпроўі), сцены С. не абшываюць, а загладжваюць мокрай рукой. Здаўна вядомы і С. пад падлогай жылых памяшканняў, звычайна ў сенцах, пазней — у кухнях і на верандах. Пашырэнне гэтага тыпу С. абумоўлена зручнасцю карыстання і аппаджэннем прысядзібнай зямлі. У мясцовасцях з высокім узроўнем грунтавой вады гародніну дагэтуль захоўваюць у *варыўнях,* а бульбу — у *капцах.* 2) Падвальнае памяшканне ў замках, палацах, мураваных будынках, дзе захоўвалі віно, порах, прадукты, а таксама трымалі і катавалі вязняў. 3) Адмысловая пабудова на могілках, у касцёлах — падземнае памяшканне, дзе ўстанаўлівалі дамавіны з нябожчыкамі.

*У. С. Гуркоў.*

**СКЛЮД,** ш к л ю д, разнавіднасць *сякеры* з шырокім адцягнутым к заду лязом, асіметрычна заточаным з аднаго боку. Ужываўся ў цяслярскай (дойлідскай) справе для счэсвання і раскolu бярвён, надання ім формы бруска, счэсвання сцен зруба да роўнай паверхні (з гэтай мэтай меў адцягнутую ў бок ручку) і інш. У вытворчай практыцы пашырыўся на параўнальна высокай ступені дойлідскага рамяства. У 1-й пал. 20 ст. ў сувязі з пашырэннем пілаванай апрацоўкі драўніны паступова выйшаў з ужытку.

*В. С. Цітоў.*

**СКО́БЛЯ,** інструмент, прызначаны для акорвання і габлявання дрэва. Шырока ўжывалася ў цяслярным, сталярным, бандарным, стальмашным рамёствах. Мела некалькі разнавіднасцей, што адлюстроўвалі яе рэгіянальныя асаблівасці і спецыялізацыю па відах работ. Найбольш пашырана С. з паўкруглым лязом (даўж. 15—25 см) і дзвюма ручкамі. Вядома і С. з прамавугольным профілем ляза, больш прыдатная для габлявання круглых форм і акорвання бярвён. Пры вырабе бандарнага і вы-



**Склюд.**



Скобля-аднаручка.

дзеўбанага посуду шырока ўжывалася С. аднаручная з кароткім (круглым і паўкруглым) лязом. У наш час усе разнавіднасці С. ўжываюцца ў дрэваапрацоўцы.

*В. С. Цітоў.*

**СКРЫ́НЯ,** 1) від мэблі; тое, што і *куфар.* 2) Дашчаная або плеценая ёмістасць для захоўвання збожжа. Мела розныя памеры, часам — некалькі адсекаў. Часцей за ўсё С. ставілі ў свірне, каморы, радзей у сенцах. У ёй захоўвалі жыта, ячмень, гарох, авёс і інш. збажыну. С. звычайна зверху зачынялі вечкам.

**СКРЫ́ПКА** (стараслав. скрыпица ад скрыпати — рыпець), струнны смычковы музычны інструмент. Паводле літаратурных і этнагр. крыніц 16—19 ст., бытавала на Беларусі і пад назвай

гуслі. Мае авальны з характэрнымі выразамі па баках корпус (каробка), які складаецца з дзвюх злёгку выпуклых дэк — верхняй (верхняя дошка, грудзі) і ніжняй (спод, ніжняя дошка, плечы), змацаваных абечкам (бачкі, бакавіцы, лучкі). Верхняя дэка мае прыклееную знутры драўляную спружыну (бэльку) і 2 рэзанатарныя S-падобныя адтуліны — эфы (эсы, галаснікі, ноздры), паміж якімі змешчана падстаўка для падтрымкі струн (конік, кабылка, падстаноўка). Струны замацаваны на падгрыфку (струнатрымальнік, лыжачка, лапатнік) і праходзяць над грыфам, умацаваным на ўклеенай у корпус шыйцы, якая пераходзіць у скрыначку з устаўленымі ў яе калкамі (закруткі, колічкі, круцёлкі, куцыкі і інш.) і заканчваецца спецыфічным завітком. У сярэдзіне корпуса паміж дэкамі з правага боку падстаўкі знаходзіцца драўляны штыфт (душка, душа), які перадае ваганні з верхняй дэкі на ніжнюю. Кожная струна мае сваю нар. назву: 1-я — дыскант, рымка (тая, што плача), талька (г. зн. тонкая), секунда; 2-я — альт, падрымоўка (тая, што падплаквае), паўтонкая, тэрца; 3-я — падбасоўка, квінта; 4-я — бас, басавік. Смык (пасмыкайла), з дапамогай якога здабываецца пры ігры гук, складаецца са смыкавішча, калодачкі, вінта і воласа. Строй нар. С., як і прафесійнай, квінтавы ($e^2$—$a^1$—$d^1$—$g$), але звычайна яна настройваецца ці вышэй (высокі строй), ці ніжэй (нізкі строй). Вышыня строю залежыць ад таго, іграюць музыкі сола або ў ансамблі, выконваюць песні або танцы. Сустракаюцца С. з «віялапчэльным» строем ($a^1$ — $d^1$ — $g$ — $c$). У нар. побыце пашыраны інструменты і фабрычнага вырабу, і самаробныя. Напр., дзіцячая С. (для пачынаючага музыкі) уяўляе сабой дошчачку, форма якой нагадвае верхнюю дэку звычайнай С.; над умацаваным на дошчачцы «конікам» нацягнуты 4 навошчаныя льняныя рознай таўшчыні струны; смыкам служыць сагнуты дугой пруток з прывязаным да яго навошчаным воласам. Больш дасканалую С. (для падлеткаў і дарослых) вырабляюць як шляхам выдзёўбвання адначасова ніжняй дэкі і шыйкі з галоўкай з аднаго кавалка дрэва (С.-даўбанка), так і шляхам склейвання з асобна выробленых частак. Але нярэдка форма самаробнай С. робіцца нар. майстрамі-самавукамі «на вока»; верхняя дэка мае замест эфаў адну авальнай формы адтуліну, душка рухаецца і ўстанаўліваецца на патрэбнае месца з дапамогай шнурка, канцы якога выходзяць наверх і завязваюцца над ніжняй дэкай. Струны бываюць шаўковыя, льняныя або звітыя ўручную з барановых кішок, смык без вінта і волас наглуха прыклеены да калодачкі. Для вырабу С. выкарыстоўваюць розныя пароды дрэў: на верхнюю дэку — драбнаслойную елку або сасну; на ніжнюю дэку, ручку, галоўку, падстаўку, калкі — клён, бярозу-чачотку; на грыф і падгрыфак — граб, бук, дуб, клён; на душку — елку, клён; на смыкавішча — дуб, граб. Сярод сучасных нар. майстроў вядомы В. В. Богдан з Вілейскага, Б. П. Кругль з Лідскага, І. М. Карней са Смаргонскага, М. Дз. Старавойт з Мазырскага р-наў, У. А. Крайко з Мінска. Асаблівасці тэхнікі ігры на С. праяўляюцца ў спосабе трымання інструмента, вядзення смыка, у пераважным выкарыстанні 1-й і 2-й струн для выканання мелодыі і 3-й — для гарманічнай падтрымкі (4-я струна выкарыстоўваецца зрэдку, у асноўным пры выкананні песенных найгрышаў), ва ўжыванні спецыфічных выканальніцкіх штрыхоў (падсечкі, падбіўкі пры выкананні мелодый). Гучанне С. на погляд нар. музыкантаў павінна быць мяккім, пявучым і адначасова яркім, галасістым, звонкім (гавораць: «трэба, каб С. не гугнела, як у гаршку ці бочцы»). У народзе С. называюць царыцай музыкі, здольнай перадаць настрой і перажыванні ўсіх і кожнага. Невыпадкова яна спадарожнічае многім звычаям, абрадам (каляндарна-земляробчым і сямейным), святам, ігрышчам, вечарынкам, гульням, танцам, паказам батлейкі, заўсёды падліваючы «масла ў вясельнае цяпло». На вяселлях ушаноўваюць не толькі музыку, але і ягоны інструмент (гл. таксама ў арт. *Вясельныя музыкі)*. На Беларусі вельмі развіта традыцыя як сольнага, так і ансамблевага выканальніцтва на С.: яна гучыць разам з бубнам, гармонікам, цымбаламі, кларнетам, а раней і з дудой. Паўсюдная выкарыстанне С., яе выключная роля ў вясковым побыце вызначылі тую асаблівую ўвагу і цікавасць, аб якіх сведчаць шматлікія ўпамінанні аб ёй у творах вусна-паэтычнай і песеннай творчасці народа.

*І. Дз. Назіна.*



Скрыпка.

**СКРЫ́ПКА,** традыцыйная рыбалоўная прылада; стаўная пастка ў выглядзе аднагорлавага *буча* з прыбудаваным да ўваходу карытцам. Называлася таксама кош. С. лавілі рыбу зімой. Пастку ставілі ў палонцы на неглыбокім месцы так, каб карытца знаходзілася ў адкрытай вадзе, а конус — пад лёдам. Рыба, што з-за недахопу кіслароду ў вадзе імкнулася да паверхні вадаёма, пападала ў карытца, а затым, шукаючы выхаду з яго, праз горла заходзіла ў буч. Як і пры лоўлі *каробкамі*, палонку закрывалі галінамі, сенам і снегам (каб не замярзала вада). Рыбачылі С. на Палессі, вядомы таксама на Магілёўшчыне і ПнУ Гомельшчыны.

*І. М. Браім.*



Скрыпка. Светлагорскі раён.

**СЛАБАДА́,** тып сельскага паселішча. Назва звязана з тым, што ў перыяд феадалізму жыхары С. карысталіся часовым вызваленнем ад выплаты падаткаў. У зах. рэгіёнах Беларусі (асабліва на Пінскім Палессі) такія пасяленні наз. Волямі, Вулькамі. Гэтыя назвы набывалі паселішчы, жыхары якіх вызваляліся (станавіліся вольнымі) на тэрмін ад 2 да 12 гадоў ад чыншу і павіннасцей з прычыны неўрадлівасці зямель, якія яны на інш. умовах адмаўляліся апрацоўваць. Такая сістэма асабліва пашыралася пасля Паўночнай вайны 1700—21. Дзеля засялення абязлюдзелых валасцей магнаты рознымі льготамі прыцягвалі сялян на свае землі. Так, у Быхаўскім графстве на рынках у 1760 агалошваўся універсал Сапегі, які гарантаваў навасёлам «вольнасць» ад павіннасцей на 6 гадоў. Пазней С. сталі называць невялікія пасёлкі гарадскога тыпу каля паватовых гарадоў, дзе жылі рамеснікі, што пакінулі абшчыну і былі звязаны з сельскай гаспадаркай толькі часткова. Пад уплывам розных сацыяльна-эканам. і паліт. прычын С. зліліся з гарадамі (захаваліся часам у назвах іх вуліц ці раёнаў) або трансфармаваліся ў звычайныя сельскія паселішчы і сталі назвамі вёсак (напр., Слабада ў Мінскім р-не) або часткамі назвы вёсак (напр., Чырвоная Слабада ў Салігорскім р-не).

*У. С. Гуркоў.*

**СЛАБАДЖА́НЕ,** аселыя на новым месцы жыхарства сяляне ці тыя, што браліся асвойваць абложныя землі. На пэўны тэрмін (2—12 гадоў) ім давалі т. зв. «слободы» — ільготы ў выкананні павіннасцей (адсюль назва). Найбольш пашырана гэта практыка была ў 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст., пасля войнаў

і разбурэнняў, калі феадалам трэба было замацаваць сялян у сваіх уладаннях і павялічыць колькасць рабочых рук. С. вызваляліся ад усялякіх павіннасцей ці выконвалі іх у меншым памеры. Напр., навасёлы маёнтка Смаргонь на 3 гады (з 1672) вызваляліся ад выплаты рэнты феадалу, а С. маёнтка Беліца Аршанскага пав. ў 1690 адпрацоўвалі 2 дні паншчыны ў тыдзень з валокі, у той час як старажылы — 4 дні ў тыдзень. Феадальная адміністрацыя часта парушала ўмовы пасялення С. Так, С. вёсак Шаўнева і Крукава Горацкай воласці [сучасны г. Горкі (Горы-Горкі)], якія ў 1620-я г. мелі «слабоды» на 6—8 гадоў, скардзіліся, што «нават года слабады не выседелі: дробныя подачкі давалі і прыгон служылі». *П. А. Лойка.*

**СЛАВЯНАЗНА́ЎСТВА,** славістыка, комплекс навуковых дысцыплін, арыентаваных на ўсебаковае вывучэнне *славян*. Уключае слав. мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыю (разам з гісторыяй грамадскай думкі, культуры і права), а таксама мастацтвазнаўства, фальклорыстыку і этнаграфію слав. народаў. У вузкім значэнні ў некаторых слав. краінах пад С. разумеюць пераважна вывучэнне замежных славян, выключаючы як асобны кірунак комплекс навук, скіраваны на вывучэнне айчыннай праблематыкі (русістыку, беларусістыку, паланістыку і г. д.). На пачатковых этапах (18 — пач. 19 ст.) С. развівалася як сінтэтычная навука, пературыўшыся пазней у сукупнасць узаемазвязаных, але самастойных навуковых дысцыплін. Вядучай састаўной часткай С. ў гэты перыяд была слав. філалогія, зараджэнне якой гістарычна звязана з пачаткам слав. Адраджэння, у першую чаргу ў Чэхіі. Адным з яе пачынальнікаў быў чэх Й. Добраўскі, які заклаў асновы С., прапанаваўшы першую групоўку слав. моў і народаў. У далейшым найбольшы ўклад у развіццё славістыкі ўнеслі славенец Я. Капітар, славак П. Шафарык, рускія А. Востакаў і І. Сразнеўскі, харват В. Ягіч і інш.

Асноўная праблематыка даследаванняў па С. традыцыйна звязана з распрацоўкай пытанняў паходжання славян як генетычнай супольнасці, лакалізацыі іх прарадзімы, класіфікацыі і ўзаемных адносін слав. народаў, іх моў і дыялектаў, а таксама кантактаў з інш. народамі і мовамі. Сярод найбольш папулярных тэм, што прыцягвалі ўвагу слав. і замежных даследчыкаў, вылучаюцца слав. міфалогія, праблема т. зв. слав. старажытнасцей, слав. этнанімія, міграцыі славян, зараджэнне і лёс слав. пісьменнасці і ў першую чаргу т. зв. кірыла-мефодзіеўская праблематыка, звязаная з гісторыяй стараж.-слав. (стараславянскай, царкоўнаславянскай) мовы, слав. сярэднявечча і Адраджэнне славян, фарміраванне слав. народаў, сучасных нацый, літаратур і літаратурных моў, гісторыя славістыкі і інш. Значны ўклад у распрацоўку гэтых і інш. праблем унеслі вучоныя розных краін, у т. л. Ф. Міклашыч, А. Патабня, А. Брукнер, М. Мурка, А. Шахматаў, Л. Нідэрле, А. Весялоўскі, М. Фасмер, І. Поліўка, Т. Лер-Сплавінскі, Дз. Зяленін, К. Машынскі і інш.

На Беларусі ля вытокаў С. стаялі З. Даленга-Хадакоўскі (1784—1825), які даследаваў стараж. гісторыю і культуру славян, у прыватнасці гіст. тапаніміку, на падставе якой рабіў вывады пра межы іх рассялення; М. Бабро́ўскі (1784—1848), які першым з усх.-слав. вучоных зрабіў падарожжа па слав. землях з мэтай азнаямлення з новай і даўняй літаратурай розных славян, выявіў і апісаў рад помнікаў стараслав. мовы (у т. л. адзін з самых старажытных — Супрасльскі рукапіс); І. Даніловіч (1788—1843), які выказаў думку пра адзінства права слав. народаў і інш. Пазней шырокія славістычныя зацікаўленні былі характэрны для С. Мікуцкага, В. Макушава, У. Качаноўскага, М. Янчука, А. Будзіловіча, Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага і інш. вучоных, што нарадзіліся на Беларусі. У 1920—30-я г. ў бел. С. распрацоўвалася пераважна праблема станаўлішча беларусаў сярод інш. славян і іх сувязей з суседнімі народамі ў мовазнаўчым (П. Бузук, І. Воўк-Левановіч, Л. Цвяткоў), гіст. (У. Пічэта, А. Ляўданскі), этнагр. (І. Сербаў, А. Сержпутоўскі) і інш. аспектах. Важнай падзеяй для бел. С. быў удзел бел. вучоных у 1-м Міжнар. з'ездзе славістаў (Прага, 1929), які ў пасляваенны час, пачынаючы з 4-га Міжнар. з'езда славістаў (Масква, 1958), стаў пастаянным. Створаны ў 1957 Бел. камітэт славістаў кіруе падрыхтоўкай да міжнар. з'ездаў славістаў і садзейнічае развіццю С. на Беларусі. У 1960-я г. і пазней у БССР створаны арганізацыйныя ўмовы для славістычных даследаванняў (аддзелы ў АН БССР і кафедры ва ун-тах). Акрамя традыцыйных для бел. С. тэм, вядзецца вывучэнне міжслав. моўных, літаратурных, фальклорных, гіст. і інш. сувязей, праслав. і стараж.-слав. мовы, балта-слав. адносін, новай і навейшай гісторыі славян, гісторыі славістыкі, тыпалагічных паралеляў у развіцці слав. народаў, моў і літаратур. Агульнаславістычны характар набыло этналінгвістычнае вывучэнне Палесся, якое мае выключнае значэнне для рэканструкцыі стараж. духоўнай культуры славян. Садзейнічаць далейшаму прагрэсу С. ў рэспубліцы і ў СССР закліка防 Фонд слав. пісьменнасці і слав. культур, створаны ў 1989. У сувязі з павышэннем ролі слав. народаў у свеце і значнымі дасягненнямі навукі аб іх С. выйшла на шырокую міжнар. арэну. Славістычныя цэнтры створаны ў большасці развітых краін свету, выходзяць шматлікія славістычныя часопісы. Стан сусветнага С. прадстаўляюць міжнар. з'езды славістаў, арганізацыяй якіх кіруюць Міжнар. камітэт славістаў і нацыянальныя камітэты. З 1976 пры ЮНЕСКА створана Міжнар. асацыяцыя па вывучэнню і распаўсюджванню слав. культур, якая праводзіць міжнар. канферэнцыі і каардынуе вывучэнне культуры слав. народаў у розных краінах. *Г. А. Цыхун.*

**СЛАВЯ́НЕ,** буйнейшая ў Еўропе група народаў, аб'яднаных блізкасцю моў і агульнасцю паходжання (больш за 230 млн. чал.; тут і далей звесткі даюцца на 1986). Паводле моўнай і этнагенетычнай роднасці вылучаюць 3 асноўныя групы: усходняя — *рускія* (142,8 млн. чал.), *украінцы* (44,7 млн.), *беларусы* (9,9 млн.); заходняя — *палякі* (42,1 млн.), чэхі (10,5 млн.), славакі (5,2 млн.), сербалужычане (0,1 млн.), кашубы (0,2 млн.); паўднёвая — балгары (9,2 млн.), сербы (9 млн.), харваты (5,1 млн.), славенцы (2,2 млн.), македонцы (1,7 млн.), С.-мусульмане (баснійцы; 2,3 млн.), чарнагорцы (0,6 млн.). Размяшчэнне слав. народаў кампактнае, яны складаюць асноўнае насельніцтва РСФСР, БССР, УССР (усе ў складзе СССР), ПНР, ЧССР, НРБ, СФРЮ, жывуць таксама ў іншых краінах Еўропы, а таксама ў Азіі (45 млн.), Амерыцы (8,6 млн.), Аўстраліі і Акіяніі (0,5 млн.) — усяго ў свеце С. 287,1 млн. чал.

Пачатак этналінгвістычнага выдзялення праслав. насельніцтва, на думку лінгвістаў, адносіцца да канца 3—2-га тысячагоддзя да н. э. Прарадзіма С. доўгі час вызначалася па-рознаму і звязвалася з Падунаем і Пананіяй (раннесярэдневяковыя летапісы), еўрапейскай часткай рассялення скіфаў і сарматаў (Я. Длугаш, М. Бельскі, Мацей з Мяхова), землямі старажытных венедаў (У. Суравецкі), з тэрыторыяй паўдн. Палесся і сярэднягa Падняпроўя (Л. Нідэрле), міжрэччам Віслы, Одэра, Эльбы на Пн ад Карпат да Палесся (У. Мартынаў, М. Артамонаў), з большай часткай тэрыторыі Польшчы і далей на У да сярэдняга і верхняга Дняпра і на Пн ад Прыпяці (В. Хензель, Л. Побаль) і інш. У 4—6 ст. н. э. пасля другога вялікага перасялення народаў пачаўся працэс пашырэння слав. арэала, які суправаджаўся моўнай і этнічнай дыферэнцыяцыяй С. Археалагічныя знаходкі гэтага перыяду, несумненна, слав. паходжання і належаць да культур пражска-карчакскага, пражска-пенькоўскага, сукоўскага, дзедзіцкага і інш. тыпаў. Тэрыторыі іх распаўсюджання распасціраліся ад Балтыйскага мора, сярэдняга цячэння Віслы і Одэра да сярэдняга цячэння Дняпра і вярхоўяў Сейма і Сулы і ад Прыпяцкага Палесся да Карпат і Дуная. На гэтых землях ішоў працэс складвання ваенна-племянных саюзаў антаў і склавінаў. Звесткі пра гэтыя плямёны ёсць у візантыйскіх аўтараў 6 ст. Іардана, Іаана Эфескага, Пракопія Кесарыйскага, Менандра, Агафія Мірынейскага і інш., якія адзначалі генетычную роднасць слав. супольнасцей або лічылі іх асобнымі адгалінаваннямі венедаў (упер-




шыню гэта назва сустракаецца ў антычных аўтараў 1—2 ст. Плінія Старэйшага, Тацыта, Клаўдзія, Пталамея). У 6—8 ст. назвы «склавіны», «склавены» паступова трансфармаваліся ў агульную назву «славяне», якая стала і іх саманазвай. Назва «анты» ўжо ў 7 ст. знікла поўнасцю, а «венеды» — часткова захавалася ў сучасных мовах некаторых суседзяў С.: фінаў, эстонцаў і інш. фіна-угорскіх народаў («венэйе», «венелане», «вене»), у немцаў («вендэн» ці «віндэн»). Працэс станаўлення назвы «С.» ішоў адначасова з далейшым пашырэннем слав. арэала. У 7—8 ст. С. засялілі Балканы, землі сучаснай Балгарыі і Югаславіі, часткова Грэцыі, Паўн. Італіі, некаторыя іх групы дайшлі нават да Малой Азіі, Паўн. Афрыкі, Сіцыліі, Іспаніі. С. асвоілі вялікія прасторы Усх. Еўропы — да Дона, Акі і вярхоўяў Волгі, а на З прасунуліся да сучаснай Баварыі, Аўстрыі і ўздоўж Балтыйскага мора да вусця Эльбы. У паўн. напрамку яны ў 6—9 ст. рассяліліся на тэр. Цэнтр. і Паўн. Беларусі, Смаленшчыны, Пскоўшчыны, Наўгародчыны. Паводле тэорыі В. Сядова, у першай слав. асваения Верхняга Падняпроўя і Падзвіння (7—8 ст.) пачалі фарміравацца этнаграфічныя і моўныя прыкметы, уласцівыя бел. народнасці. У працэсе каланізацыі новых зямель С. асімілявалі мясцовае фракійскае, ілірыйскае, кельцкае, сармата-аланскае, балцкае, фіна-угорскае, цюркскае насельніцтва, што прывяло да ўзнікнення і замацавання лакальных асаблівасцей розных слав. груп. У тых месцах, дзе С. складалі меншасць насельніцтва, яны самі паступова асіміляваліся грэкамі, італьянцамі, венграмі, румынамі, немцамі. Галоўнымі формамі сацыяльнай арганізацыі С. таго часу былі суседскія *абшчыны*, якія аб'ядноўваліся ў роды, плямёны і племянныя саюзы. С. займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі; спавядалі *язычніцтва* з развітым культам продкаў і шматлікім пантэонам багоў (Пярун, Сварог, Даждбог, Вялес і інш.).

Абшчынна-племянная і ваенна-палітычная арганізацыя С. у 7—9 ст. пачала замяняцца дзяржаўна-класавай, што садзейнічала складванню раннефеадальных слав. дзяржаў — княства Само ў Чэхіі, Першага Балгарскага царства, Велікамараўскай, Польскай і Сербскай дзяржаў, Карантаніі ў Харваціі, усх.-слав. саюзаплемянных супольнасцей *палачан, дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў, драўлян*, палян, вяцічаў, наўгародскіх славен, а пазней Кіеўскай Русі. З 8—10 ст. у С. распаўсюджваецца хрысціянства, якое больш, чым язычніцтва, стасавала да сацыяльна-палітычнага ладу феадальнага грамадства. У межах феадальных слав. дзяржаў пачалі фарміравацца слав. народнасці: палякаў — з плямён і племянных саюзаў палян, слянзан, віслян, мазаўшан, памаран; чэхаў — з чэхаў, дудлебаў, лучан, дзячан; сербаў, чарнагорцаў і баснійцаў — з дуклян, цервунян, канаўлян, нарачан; македонцаў — з сагудатаў, рынхінаў, драговічаў, струменцаў, бердзітаў; харватаў — з качычаў, шубічаў, свачычаў, магаровічаў. На землях Усх. Еўропы ў 9—10 ст. адбывалася палітычнае аб'яднанне этнатэрытарыяльных і саюзаплемянных супольнасцей у межах Кіеўскай Русі, а з канца 13—14 ст. пачалі складвацца руская, беларуская і ўкраінская народнасці. Інакш склаўся гістарычны лёс іншых слав. плямён. Палабскія і памorскія лютычы, вялеты, абадрыты ў выніку нямецкай агрэсіі былі часткова знішчаны, а часткова анямечаны (за выключэннем сербалужычан і кашубаў, якія сталі білінгвамі, але захавалі сваю слав. культуру, мову і самасвядомасць). У 10 ст. пад уладай венгерскіх феадалаў апынуліся землі славакаў. Усведамляючы сваю агульнасць, слав. народы часам аб'ядноўваліся і сумесна выступалі супраць іншаземных захопнікаў (у Кулікоўскай 1380 і Грунвальдскай 1410 бітвах). У 2-й пал. 14—16 ст. сербы, балгары, македонцы, баснійцы, чарнагорцы былі заняволены туркамі-асманамі, харваты, чэхі і славенцы былі ўключаны ў імперыю Габсбургаў. Беларускія і большасць украінскіх зямель увайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, а пасля Люблінскай уніі 1569 — у Рэч Паспалітую. У 15—16 ст. утварылася Руская цэнтралізаваная дзяржава, ядром якой была руская народнасць, пазней да Расійскай імперыі былі далучаны ўкраінцы, беларусы і значная частка палякаў. У выніку перамогі Расіі над Турцыяй у 19 ст. атрымалі незалежнасць Балгарыя, Сербія, Чарнагорыя.

Зараджэнне і развіццё капіталістычных адносін і працэсы нацыянальнага адраджэння ў большасці слав. народаў абумовілі фарміраванне ў 18—19 ст. буржуазных нацый. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі былі створаны ўмовы для развіцця сацыялістычных нацый у межах РСФСР, БССР, УССР. Салідарнасць слав. народаў асабліва актыўна праявілася і памацнела ў гады 2-й

сусветнай вайны ў час барацьбы супраць фашызму. У выніку палітычных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў ва Усх. і Паўд.-Усх. Еўропе былі створаны сацыялістычныя слав. дзяржавы і сфарміраваліся сацыялістычныя слав. нацыі: польская, чэшская, славацкая, балгарская, сербская, харвацкая і інш. *І. У. Чаквін.*

**СЛА́НЦЫ,** агульная назва розных па форме і аднолькавых па механізму дзеяння пераносных ападных самаловак. Выкарыстоўваліся для лоўлі дробных пушных звяркоў, а таксама для знішчэння пацукоў і мышэй на сядзібе.

**СЛОЙ,** ганчарны выраб; высокая пасудзіна з пукатымі, радзей прамымі бакамі і шырокім горлам, з прамымі (пад накрыўку) ці расхіленымі (каб абвязваць паперай або тканінай) беражкамі. Называлі таксама слоік. Часам меў адно або два вушкі. Памеры ад 0,5 да 20 л. У вялікіх С. салілі агуркі, грыбы, капусту, мачылі яблыкі, а ў сярэдніх і маленькіх захоўвалі мёд, тлушч, смятану, варэнне і інш. прадукты. Выраблялі С. паліваныя, часам з ангобнай размалёўкай.



Слоікі.

**СЛУ́ЖБА,** асноўная адзінка і аб'ект абкладання феадальнымі павіннасцямі сялян у Вялікім княстве Літоўскім да сярэдзіны 16 ст. У Берасцейскім пав. называлася жрэбія, у Пінскім — *дворышча*. С. называўся і зямельны ўчастак, за карыстанне якім сяляне выконвалі шэраг павіннасцей. Не меў цвёрда ўстаноўленых памераў, знаходзіўся ў карыстанні 2—3 сялянскіх гаспадарак — *дымоў*. На У Беларусі ў гаспадарскіх паднязроўскіх і падзвінскіх валасцях у сярэдзіне 16 ст. зямля была перамерана на С., роўныя па плошчы 30 бочкам сяўбы збожжавых (каля 1 валокі) і стала асноўнай адзінкай абкладання павіннасцямі замест «дыму». Была вызначана якасць глебы ў С.: «грунт добры», «сярэдні», «подлы» і «вельмі подлы». Па характару асноўных павіннасцей С. называліся цяглымі, асаднымі, мельніцкімі, войтаўскімі і інш. У некаторых маёнтках С. існавалі да канца 18 ст. Часам С. называўся і асноўны комплекс павіннасцей феадальна-залежнага насельніцтва: С. панцырная, путная, лістоўная, пушкарская, баброўніцкая, плотніцкая, цяглая, асадная і інш. У Зах. і Цэнтр. Беларусі пасля *валочнай памеры* С. былі заменены валокай. *В. Ф. Голубеў.*

**СЛУПАВЫ́Я КАНСТРУ́КЦЫІ,** канструкцыйная сістэма ў народным будаўніцтве. Яе аснову складаюць вертыкальныя нясучыя элементы — слупы (шулы), укапаныя ў зямлю або з апорай на *ачэп*. У шулах рабілі пазы, у якія закладалі бярвёны, дылі, жэрдкі, дошкі. Такая канструкцыя дазваляла ўзводзіць будынкі розных памераў, практычна любой формы ў плане. С. к. пашыраны на Беларусі ў розных тыпах сялянскіх будынкаў: у жыллі — да 17 ст., а ў гасп. пабудовах (гумны, адрыны, хлявы, павеці і інш.) сустракаюцца і ў наш час. На Палессі і Падняпроўі ў гэтай тэхніцы будавалі і агароджы — *замёт*. Шулы абапал уваходу адначасова з'язляліся і вушакамі дзвярэй (варот). Шырока выкарыстоўвалася змешаная канструкцыя, калі рубленымі былі вуглы будынка, а яго сцены ці прыбудова злучаліся з дапамогай шулаў. *С. А. Сергачоў.*



Хлеў **слупавой канструкцыі.** Вёска Калыбань Брагінскага раёна.



**Слупавая канструкцыя.** Фрагмент. Вёска Канвелішкі Воранаўскага раёна.

**СЛУ́ЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў кастр. 1952. Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 280 м²), больш 15 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988). Аддзелы: стараж. і сав. перыядаў, Кастр. рэвалюцыі і грамадз. вайны, будаўніцтва сацыялізму, Вял. Айч. вайны, пасляваеннага перыяду, прыроды. У экспазіцыі прылады працы эпохі неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў; прадметы з раскопак гарадзішча каля в. Іваць; знаходкі 12—13 ст., у т. л. часткі косаў і сярпоў, нажы, нажніцы, жорны, гліняны і бандарны посуд, жаночы скураны абутак, каменны і бурштынавы крыжыкі, сярэбраная падвеска, металічныя гузікі і спражкі, шкляныя бранзалеты, пацеркі, касцяныя шахматныя фігуркі, люлькі, кафля з выявай крылатага каня. У этнагр. калекцыі прылады працы і побыту сялян 19—20 ст.: прасніцы, матавілы, розныя прылады для пляцення лапцей, віцця вяровак, стрыжкі авечак, бандарныя інструменты (цыркуль, цясла, скоблі, стругі), сярпы, плугі, церніцы, часалкі, бёрды, ніты, трапалкі, сявенькі, споўніцы, верацёны, калаўрот, кросны, пранік, лазовыя і саламяныя карабы, біклагі, бойка, сальніца, гарнец, карцы, ступы, берасцянкі, калыска, табакеркі, шкатулкі, медны посуд і інш. Дэманструюцца калекцыя самавараў, фарфоравы і сярэбраны посуд, калекцыя манет (17—20 ст.), нар. адзенне (жаночыя і мужчынскія кушулі, аздобленыя вышыўкай, наміткі, фартухі, гарсэты, андаракі, лапці і інш.), узоры нар. ткацтва (габелены, ручнікі, абрусы, дываны, посцілкі). Асобная экспазіцыя прысвечана слуцкім паясам (18 ст.). Сярод матэрыялаў — дакументы пра бел. этнографаў і фалькларыстаў А. К. Сержпутоўскага, З. Я. Даленгу-Хадакоўскага, Айч. вайну 1812, паўстанне 1863—64, рэв. рух у канцы 19 — пач. 20 ст., Кастр. рэвалюцыю, грамадз. і Вял. Айч. войны. Адлюстравана развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў пасляваенны час. Зберагаюцца работы нар. умельцаў (мастацкае ткацтва, вышыўка, разьба па дрэве, пляценне з саломы і лазы, вырабы з рогу і інш.). *В. С. Відлога.*

**СЛУ́ЦКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Цэнтральнай Беларусі. Бытаваў у канцы 19 — пач. 20 ст. на абмежаванай тэрыторыі, што ўключала г. Слуцк (пераважна мяшчан) і навакольныя вёскі. Яму ўласцівы аднатыпнасць форм адзення, сціпласць арнаменталь-

нага аздаблення, перавага крамных тканін.

Летні жаночы гарнітур складалі кашуля, спадніца, фартух і гарсэт. Ка-



Слуцкі строй. Дзяўчынкі ў святочным убранні. Случчына. Пачатак 20 ст.

шулю шылі з каўняром (пры нашэнні прыпадымалі вакол шыі), з рукавамі, сабранымі на каўнерцы. Спадніцу шылі з крамнай шарсцянкі або з даматканай клятчастай тканіны светлых вясёлкавых колераў, фартух — з крамнага цёмнага ці белага набіванага паркалю з нашыўкамі шырокіх паскаў карункаў па нізе. Доўгі суцэльны гарсэт цёмнасіняга ці чорнага колеру з аблямоўкай па крыссі меў вялікі, амаль да таліі выраз, які запаўняўся вертыкальным шляхам вышыўкі кашулі і шматлікімі ніткамі пацерак. Галаўныя ўборы жанчын — вялікія з махрамі набіваныя хусткі, завязаныя ў выглядзе цюрбана. У мужчынскі гарнітур уваходзілі кашуля з адкладным каўняром, ільняныя або суконныя нагавіцы, у якія запраўлялася кашуля, камізэлька. Галаўныя ўборы мужчын — саламяныя капелюшы з расшыраным верхам, футраванкі, картузы. Верхняе адзенне мужчын і жанчын значна адрознівалася: жаночую вопратку кроілі па тыпу гарсэта, да якога прыточвалі рукавы (чорныя суконныя курцікі, світы), а мужчыны насілі курты з чорнага, карычневага сукна, кажухі.

*М. Ф. Раманюк.*

**СЛУ́ЦКІЯ ПАЯСЫ́**, вырабы ручнога шаўкаткацтва. Назву атрымалі ад г. Слуцка, дзе выпрацоўваліся з 1740-х г. да 1844 на Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў (персіярні), якая належала князям Радзівілам. З 1757 на гэтай мануфактуры працаваў майстар-ткач Я. Маджарскі, які распрацаваў новы тып пояса — слуцкі, назва якога стала сінонімам усіх доўгіх шаўковых паясоў. Спачатку С. п. капіравалі ўзоры, што прывозілі з Бліжняга Усходу, потым сталі ўключаць у арнамент нацыянальныя матывы, кветкі мясцовай флоры — васількі, незабудкі і інш. Бел. майстры пераймалі і творча перапрацавалі ўсх. рамяство, надаўшы яму мясцовы каларыт. С. п. мелі гарманічныя суадносіны частак, выразна выпрацаваную структуру арнаменту. Ткалі паясы даўжынёй 2—4,5 м з шаўковых, залатых і сярэбраных нітак (т. зв. «літыя» паясы, правы бок якіх быў цалкам затканы залатой ніткай, закрываючы шаўковую аснову). Рабілі паясы аднабаковыя (з адваротным бокам), двухбаковыя (абодва бакі правыя ці адзін двухбаковы і адзін адваротны) і чатырохбаковыя (па ўсёй даўжыні былі падзелены на палавіны з утком рознага колеру). Пояс складаўся з сярэдніка з аблямоўкай і 2 канцоў. Сярэднік арнаментаваўся папярочнымі гладкімі ці ўзорыстымі палосамі, радзей узор быў сеткавы, у



Слуцкі строй. Маладуха ў традыцыйным адзенні. Случчына. Пачатак 20 ст.

гарошак і інш. Па краях пояса ішла арнаментальная абляможка (шлячок). На канцах размяшчаліся складаныя ўзоры пераважна з 2—3 матывамі: авал, абкружаны лісцем са сцяблінкамі і кветкамі; кветкі на доўгім сцябле з галінкамі, якія выходзяць з зямлі ці з вазаў; букеты кветак з хвалепадобным абрамленнем. На рагу пояса з абодвух бакоў натыкалі меткі на стараславянскай і лацінскай мовах («Слуцк», «У горадзе Слуцку», «Зроблена ў Слуцку»). Канцы пояса часам абшывалі махрамі. Шаўковыя паясы тыпу слуцкіх выраблялі таксама ў Гродне, Нясвіжы, Ружанах, Кракаве і інш. гарадах.

*Дз. С. Трызна.*

**СМАЛАКУ́РНАЯ ПЕЧ**, прыстасаванне для гонкі смалы і шкіпінару з сасновага *асмолу*. С. п. з кажухом вядома з пач. 19 ст. Уяўляла сабой цагляную

камеру ў выглядзе ўсечанага конуса або цыліндра з паднябеннем. Вакол камеры на пэўнай адлегласці ўзводзілі цагляную сцяну (кажух). Пячная камера мела адтуліны ўнізе і ўверсе для загрузкі (каля 0,5 кубічнага сажня) і падпальвання асмолу, якія потым герметычна зачыняліся. У кажуху, дзе палілі дровы, таксама рабілі адтуліны (пячную і для выхаду дыму). Гарачае паветра цыркулявала вакол пячной камеры і награвала асмол.







Слуцкія паясы.

Смала сцякала ў прыёмнік (бочку). У верхняй частцы печы мацавалася металічная труба для пары шкіпінару, спіралепадобны канец якой праходзіў праз рэзервуар з халоднай вадой (халадзільнік), дзе пара кандэнсавалася ў шкіпінар. У С. п. спачатку атрымлівалі шкіпінар, затым смалу, астаткавым прадуктам быў драўняны вугаль. Вытворчы цыкл займаў 3—4 тыдні. З сярэдзіны 19 ст. будавалі больш дасканалыя печы з жалезным катлом замест пячной камеры. Такія печы ў 1850-я г. дзейнічалі ў Магілёўскім, Гомельскім, Мазырскім, Слонімскім і інш. паветах. У пач. 20 ст. на Беларусі налічвалася да 300 смалакурных катлоў. З канца 19 ст. на буйных прадпрыемствах ставілі ўдасканаленыя катлы — рэторты. Вертыкальная заходняя (мінская) рэторта хутка пашырылася ва ўсх. і цэнтр. р-нах Беларусі. Значная ёмістасць рэторты (каля 25 м$^3$) і больш кароткі вытворчы цыкл (каля тыдня) дазволілі павялічыць прадукцыйнасць працы. У 1929 у БССР дзейнічала 380 рэтортавых установак, за сезон яны давалі 13 тыс. т смалы і 6,5 тыс. т шкіпінару. На *смалакурнях* Гродзеншчыны і Брэстчыны да сярэдзіны 20 ст. бытавала латышская печ, камера якой змяшчала да 100 м$^3$ асмолу. Але ў ёй гналі толькі шкіпінар; для атрымання смалы асмол перагружалі ў пабудаваныя побач ямы («банкі»), пазней — у т. зв. польскія катлы (тып невялікай металічнай рэторты), дзе і заканчваўся вытворчы працэс. Гл. таксама *Смалакурэнне*. *Н. І. Буракоўская.*

**СМАЛАКУ́РНЯ**, смалярня, буда, прадпрыемства для гонкі смалы і шкіпінару з расповага *асмолу*. У 1-й пал. 19 ст. бытавалі паўсаматужныя С.— *майданы*. На змену ім прыйшлі *смалакурныя печы* — цагляныя з кажухом, а з сярэдзіны 19 ст. печы з металічным катлом. Найбольш дасканалая з іх заходняя (мінская) рэторта, якая існуе і ў наш час. Мае прыстасаванні для сцёку смалы і шкіпінару. С. размяшчаюцца ў лесе, дзе здабываецца пнёвы асмол. Да сярэдзіны 20 ст. С. на З Беларусі абсталёўваліся і цаглянай латышскай печчу. *Н. І. Буракоўская.*

**СМАЛАКУРЭ́ННЕ**, вытворчасць смалы спосабам сухой перагонкі *асмолу*. Вядома з даўніх часоў. Выкарыстоўвалі смалу для прасмолкі рачных і марскіх суднаў, канатаў, рыбацкіх невадоў і інш. патрэб. У 13 ст. Полацк вёў ажыўлены гандаль смалой з Ганзай праз Рыжскі порт. Вытворчасць і экспарт смалы павялічыліся ў 16 ст., асабліва ў 18 — 1-й пал. 19 ст. Буйныя памешчыкі, уладальнікі лясных угоддзяў развівалі смалакурны промысел для павелічэння таварнасці сваіх гаспадарак. З канца 18 ст. гандаль смалой ішоў праз паўд. порты Херсон, Адэсу. Смалакурны промысел быў пашыраны пераважна на Падняпроўі і Палессі (Магілёўская і Мінская губ.), менш на Гродзеншчыне і ў інш. мясцовасцях. У 1804—10 на *смалакурнях* Мінскай губ. штогод выраблялі да 40 тыс., Магілёўскай губ.—да 20 тыс. бочак смалы. Гонку смалы ажыццяўлялі ў асноўным прыгонныя сяляне, а пасля адмены прыгоннага права С. вялі сялянесаматужнікі і купцы-лесапрамыслоўцы (гл. *Лесахімічныя промыслы)*. Традыцыйныя спосабы С.— ямны, майданны (гл. ў арт. *Майдан*; знік да канца 19 ст.) і ў *смалакурных печах*. К канцу 19 ст. саматужнае С. прыйшло ў заняпад. У 1920—30 г. С. вялі арцелі каапераваных саматужнікаў і дзярж. смалакурні. У 1930-я г. ў БССР здабывалася 30 %, у 60-я г.— да 70 % агульнай колькасці смалы ў краіне. У наш час вытворчасцю смалы займаюцца Гродзенскі, Івацэвіцкі, Маладзечанскі, Плешчаніцкі і Тураўскі леспрамгасы. *Н. І. Буракоўская.*

**СМАЛЯ́РНЯ**, прадпрыемства для гонкі смалы і шкіпінару; тое, што і *смалакурня*.

**«СМАРГО́НСКАЯ АКАДЭ́МІЯ»**, адна са школ бел. *скамарохаў*, жартоўная назва промыслу лавіць і дрэсіраваць мядзведзяў, заснаванага князямі Радзівіламі ў Смаргоні. Маладых мядзведзяў спачатку вучылі «танцаваць», для чаго іх саджалі (па 2—3) у спецыяльную клетку, падагравалі ў ёй дно і прывучалі стаяць на задніх лапах і перамінацца з адной на другую пад удары бубна, потым вучылі барукацца, кланяцца. Промысел існаваў з 17 да канца 18 ст., паводле інш. звестак да пач. 19 ст. Сцэна з дрэсіраваным мядзведзем адлюстравана ў *батлейцы*: вы-

водзілі лялек — скамароха і мядзведзя, якіх называлі «смаргонскі вучыцель з вучнем» (1902, Міншчына). Гл. таксама *«Мядзведжыя пацехі»*.

**СМЫК,** прылада для рыхлення глебы і загортвання ў яе насення. Выка-





Смык.

**Смалакурня.** Урочышча Галавічна Пружанскага раёна. 1981.

рыстоўвалі часцей пры ляднай (падсечнай) сістэме земляробства ў лясных зонах. На Віцебшчыне, дзе доўга захоўвалася лядная сістэма, сеялі без папярэдняга ўзорвання, а С. або *вершалінай* (сукаваткай) аднечасова рыхлілі глебу і засыпалі пасеянае насенне. С. рабілі з расколатых ці абчасаных яловых ствалоў, у якіх з аднаго боку пакідалі сукі даўжынёй 40—60 см. Колькасць ствалоў (5—10) была абумоўлена і таўшчынёй дрэўцаў, з якіх рабілі С., і ўмовамі працы. Для апрацоўкі цяжкіх глеб С. рабілі з больш тоўстых дрэўцаў з мацнейшымі сукамі. Ствалы даўжынёю каля метра прывязвалі дубовымі, лазовымі, бярозавымі віткамі да дзвюх папярочных планак, радзей прыбівалі цвікамі. Два крайнія ствалы былі на 1—1,5 м даўжэйшыя за сярэднія. Яны ўтваралі аглоблі (вобжы), за якія чаплялі пастронкі. С. бытаваў на Беларусі паўсюдна, за выключэннем Гомельшчыны, да пач. 20 ст. Часам яго выкарыстоўвалі замест *бараны*. У некаторых мясцовасцях, асабліва на Віцебшчыне, 7—10-ствольнымі С. баранавалі бульбу.

*Л. І. Мінько.*

**СМЫК** (ад стараслав. смыкати — шоргаць, церці, цягнуць, а таксама вадзіць смыкам па струнах або ад смыкати — цягнуць, валачыць), старажытнарускі музычны смычковы інструмент. Упамінаецца ў стараж.-рускіх рукапісах 11—16 ст. (Ніканаўскі спіс «Аповесці мінулых гадоў» пад 1063, Кормчыя кнігі 12 ст. і інш.). Назва «С.» у дачыненні да музычнага інструмента сустракаецца і ў творах стараж.-бел. літаратуры (Ф. Скарына. Кнігі «Царствы», «Прарок Данііл»). Устаноўленае археолагамі адзінства паходжання і аднароднасць матэрыяльнай і духоўнай культуры стараж. гарадоў Ноўгарада, Пскова, Смаленска, Полацка, Віцебска, Мінска дае падставу меркаваць, што стараж.-бел. С. быў падобны да 3-струннага смычковага інструмента, знойдзенага ў пластах 12—14 ст. пры раскопках Ноўгарада.

*І. Дз. Назіна.*

**СНАВА́ННЕ,** падрыхтоўка асновы для *красён*; размеркаванне пражы так, каб у час ткання ўтвараўся зеў (верхні і ніжні рады). На Беларусі вядомы 3 спосабы С.: на сцяне, на раме і на рухомай сноўніцы. Найб. старажытнае С. на сцяне (вядома на ўсёй Беларусі, пераважала на Магілёўшчыне і поўдні Міншчыны). Унутры ці звонку хаты або іншай пабудовы па вертыкалі на адлегласці прыкладна 16—17 см забівалі калочкі ў адным канцы сцяны і паралельна — у другім. У першым радзе паміж калкамі забівалі «чыноўны» калок, які служыў для раздзялення асновы на верхні і ніжні рады. Снавалі ў 2 ніткі — з 2 клубкоў або з 2 матавіл. Для С. карысталіся спец. лапатачкай (сноўкай) з 2 паралельнымі дзірачкамі, у якія працягваліся ніткі. Адлегласць паміж супрацьлеглымі калкамі складала адну губку (4—6 м, у залежнасці ад даўжыні сцяны). Даўжыня асновы вызначалася колькасцю губак. С. на раме пашырана на ПдЗ і З Беларусі. У 2 вертыкальна пастаўленыя слупкі, злучаныя папярэчнымі, убівалі калочкі («чыноўны» калок — у ніжнюю папярэчыну). Прынцып С. такі ж самы, як і на сцяне. Пасля заканчэння С. ніці перавязвалі па адной пасме ў месцы перасячэння «ў чынах» і на верхнім апошнім калку («у глухім канцы»). Потым аснову здымалі з калкоў і сплятаюі ў касу (пляцёнку). Больш позні спосаб С.— на сноўніцы. У 19 — пач. 20 ст. ён быў характэрны для паўн. раёнаў Беларусі. Сноўніца (крутуха) складалася з 2 накрыж умацаваных драўляных брускоў даўж. 190 см, злучаных па вертыкалі 4 планкамі даўж. 150 см. Крыжавіны насаджвалі на стрыжань, ніжні канец якога мацаваўся ў падлозе, а верхні — у бэльцы. У ніжняй крыжавіне забівалі «чыноўны» калок, а на верхняй — калок для «глухога» канца. На такой сноўніцы жанчына працавала седзячы, трымаючы ў левай руцэ пражу, правай круціла сноўніцу.

*Г. М. Курыловіч.*

**СНЕГІРО́Ў** Іван Міхайлавіч [23.4(4.5). 1793—9(21).12.1868], рускі этнограф, фалькларыст, археолаг. Скончыў Маскоўскі ун-т (1814), дзе потым быў прафесарам кафедры рымскай славеснасці і старажытнасцей. Сабраў, пракаменціраваў і апублікаваў багаты матэрыял па рускіх лубачных малюнках, прыказках і прымаўках. Апісаў рускія народныя святы і абрады, шырока выкарыстаўшы для параўнання слав. і заходнееўрапейскія крыніцы, найбольш поўна — бел. этнагр. друкаваныя і рукапісныя матэрыялы, якія дасылалі яму В. Г. Анастасевіч, І. М. Бадзянскі і інш. Асабліва многа каштоўных звестак, сабраных па анкеце З. Я. Даленгі-Ходакоўскага студэнтамі Віленскага ун-та, перадаў яму І. М. Лабойка. Сябраваў з Даленгам-Хадакоўскім, кансультаваўся з ім па пытаннях гісторыі, этнаграфіі, мовы і фальклору бел. народа, карыстаўся яго архівам. Багаты матэрыял па этнаграфіі, гісторыі і фальклоры Беларусі змясціў у сваёй працы «Рускія простанародныя святы і прымхлівыя абрады» (Вып. 1—4. М., 1837—39).

*Літ.:* Ивановский А. И. М. Снегирев и дневник его воспоминаний 1821—1865. Спб., 1871; Пыпин А. Н. История русской этнографии. Т. 1. Спб., 1890.

*Л. А. Малаш.*

**СНЕТ,** адпаведна апрацаваны дубовы аполак, якім дадаткова прыкрываўся ўваход у *борць*. Рэгіянальныя назвы: снедзь, сняток. Мацаваўся да ствала

бортнага дрэва або да корпуса калоднага вулля паверх *дойжаня* пры дапамозе драўляных штыроў з правушынамі і затычак. Выконваў двайную ролю: бараніў пчаліную сям'ю ад мядзведзяў і ад пранікнення вільгаці ў вулей. У некаторых мясцовасцях пад С. падкладвалі бярösту. *С. Ф. Цярохін.*

**СНО́ЎНІЦА,** прылада для *снавання* нітак асновы для красён.

**«СОВЕ́ТСКАЯ ЭТНОГРА́ФИЯ»,** часопіс Інстытута этнаграфіі АН СССР. Заснаваны ў 1926 АН СССР і Наркаматам асветы РСФСР пад назвай «Этнография», у 1931 перайменаваны ў «С. э.». Выдаваўся ў Маскве — Ленінградзе, з 1946 у Маскве на рус. мове (у 1926—29—2 нумары ў год, у 1930—32, 1937, 1946—56—4, у 1933—36 і з 1957—6). У 1938—47 выходзіў як зборнік артыкулаў (7 выпускаў). Змяшчае артыкулы, агляды, рэцэнзіі па пытаннях этнаграфіі народаў СССР і замежных краін, гісторыі этнагр. навукі, знаёміць з рознымі аспектамі этнагр. музеязнаўства і інш. У часопісе абгрунтоўваюцца новыя кірункі ў этнаграфіі і сумежных дысцыплінах, новая методыка даследавання, у т. л. палявых (гл. *Палявыя этнаграфічныя даследаванні*). Друкуе таксама матэрыялы па этнасацыялогіі, этнадэмаграфіі, этнапсіхалогіі, этнічнай антрапалогіі, анамастыцы, нар. медыцыне, этнічнай экалогіі, нар. мастацкай творчасці і інш. У «С. э.» надрукаваны працы бел. этнографаў і фалькларыстаў: «Перспектывы этнаграфічнай працы на Беларусі», 1932, № 5—6, «Беларуская савецкая этнаграфія за 30 гадоў», 1948, № 2, «Да паходжання беларускай народнасці (З нагоды тэорыі субстрата)», 1968, № 5 М. Я. Грынблата; «З гісторыі развіцця сялянскіх пасяленняў і сядзіб беларусаў», 1956, № 1, «Прылады працы на ўборцы збожжавых і вытворчыя пабудовы беларусаў у канцы XIX — пачатку XX ст. (Матэрыялы да гісторыка-этнаграфічнага атласу)», 1968, № 3 Л. А. Малчанавай; «Каляда ў беларускай палескай вёсцы» З. Я. Мажэйкі, 1969, № 3; «Краніялагічная характарыстыка насельніцтва Беларусі XVIII—XIX стст. у сувязі з некаторымі пытаннямі паходжання беларусаў» І. І. Салівон, 1969, № 4; «Дэрматагліфіка беларусаў (Да праблемы этнагенезу беларускага народа)» Л. І. Цягакі, 1970, № 3; «Тыпы традыцыйнай забудовы сялянскага двара на Беларусі (XIX — сярэдзіна XX ст.)» А. І. Лакатко, 1987, № 4; «Этнакультурныя працэсы ў гарадах Беларусі: гісторыя і сучаснае развіццё» В. К. Бандарчыка і В. М. Бялявінай, 1987, № 5; рэцэнзіі І. М. Браіма, М. Ф. Пііпенкі, А. С. Фядосіка і інш. *Н. С. Палішчук.*



Канструкцыя страхі на **сошках.**



**Сошная канструкцыя** хаты. Вёска Падбалоцце Зэльвенскага раёна.

**«СО́НЕЙКА»,** карагод. Пашыраны ў выглядзе вясенняга карагода з дакладна выражаным магічным характарам. Абавязковыя ўдзельнікі карагода — дзеці. Яны рассаджваюцца на зямлі ў адну шарэнгу на адлегласці 3—4 м адно ад аднаго. Дзяўчаты, узяўшыся за рукі, ходзяць простым крокам змейкаю паміж дзецьмі і спяваюць: «Ды йшло сонца-сонейка,//Ды із рускай стараны.//Ох, я думала, што гэта сонейка,//А гэта мой родны татачка...». Пасля таго, як праспявалі песню, дзеці паднімаюцца з зямлі і бягуць удогж вуліцы або па крузе (у залежнасці ад таго, дзе карагод выконваецца). Дзяўчаты са злучанымі рукамі бягуць за дзецьмі. Малыя трохі прабягаюць і зноў садзяцца на зямлю, карагод пачынаецца спачатку.

У Бярэзінскім р-не вядомы наступны варыянт карагода «С.». Цотная колькасць удзельнікаў карагода, узяўшыся за рукі, прасоўваецца пераменным крокам па крузе па ходу гадзіннікавай стрэлкі, а потым супраць гадзіннікавай стрэлкі. Пасля гэтай фігуры танцоры становяцца ў дзве процілеглыя шарэнгі, бяруцца за рукі і кожная шарэнга выконвае агульны паварот вакол сябе. Паўтараецца гэта некалькі разоў запар. Потым абедзве лініі танцораў сходзяцца, перабудоўваюцца ў пары і ў парах на адным месцы выконваюць пляскание ў далоні ў розных варыянтах. Наступная фігура пачынаецца з таго, што танцоры (па аднаму з кожнай пары), узяўшыся за рукі, ствараюць круг. Выканаўцы, якія засталіся, падыходзяць да сваіх партнёраў у крузе і кладуць на іх з'яднаныя рукі сваю руку. У такім становішчы яны прасоўваюцца па ходу гадзіннікавай стрэлкі («па сонцу»). Выканаўшы гэту фігуру некалькі разоў, танцоры перастройваюцца ў адзін агульны круг і рухаюцца «па сонцу» простымі крокамі. Зафіксаваны ў Іванаўскім, Кобрынскім, Пінскім, Столінскім р-нах Брэсцкай вобл. і ў Бярэзінскім р-не Мінскай вобл. экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК. *А. Л. Варламаў.*

**СО́СНІЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура плямён бронзавага веку, якія ў 2-й пал. 2-га — пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. насялялі Верхняе і Сярэдняе Падняпроўе. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам і паляваннем. Паселішчы размяшчаліся на пясчаных узвышэннях поймы, краях тэрас і мысах, якія ўразаліся ў пойму. Наземныя і паўзямлянкавыя жытлы

(плошчай 24—98 м$^2$) слупавой канструкцыі з 2-схільнымі стрэхамі складаліся з 1—2 памяшканняў (жылога і гаспадарчага), мелі ўнутры печы, адкрытыя агнішчы і гаспадарчыя ямы. Пахавальны абрад — трупаспаленне, радзей трупапалажэнне (у скурчаным становішчы на баку — у курганных могільніках, у выцягнутым становішчы на спіне — на бескурганных могільніках). Нябожчыкаў, рэшткі спалення і урны хавалі ў магільных ямах, перакрытых драўляным накатам. На паселішчах і ў могільніках знойдзены крамянёвыя і каменныя прылады працы, гліняны посуд, бронзавыя прадметы. З крэменю выраблялі трохвугольныя чаранковыя наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, сярпы і інш., з каменю — зерняцёркі, тапары, адбойнікі і інш. Насельніцтва вырабляла міскі, слоікападобныя пасудзіны, чашы, пласкадонныя цюльпанападобныя і S-падобныя ў профілі гаршкі з патоўшчаным і скошаным венчыкам, упрыгожаныя найчасцей у верхняй частцы пракрэсленымі лініямі, насечкамі, ямкамі, адбіткамі шнура, зубчастага штампа, перавітай вяровачкі, ружанцавым арнаментам, наляпнымі валікамі. Часам арнаменты ўтваралі гарызантальныя рады трохвугольнікаў, зігзагі і інш. Сярод упрыгожанняў — шпількі з кольцападобнай галоўкай, бранзалеты з спіралепадобнымі шчыткамі, двухспіральныя і акулярападобныя фібулы, кольцы, бляшкі і інш. З гліны выраблялі таксама лыжкі, прасліцы, па форме аднолькавыя з посудам, грузілы і інш. На думку некаторых даследчыкаў, С. к. — варыянт усходнетшцінецкай культуры. *А. Г. Калечыц.*

**СОШКА,** 1) элемент страхі каркаснай канструкцыі на хатах і гаспадарчых пабудовах; кароткая *саха*, якая падтрымлівае вільчыкавы брус і апіраецца на бэльку ці тарцовую сцяну. Рабілі С. звычайна з дубу. У сувязі з дэфіцытам гэтага матэрыялу паступова выцяснялася з будаўніцтва *дзядкамі*. 2) Прылада для акучвання бульбы; гл. ў арт. *Акучнік*.

**СОШНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ,** будаўніцтва «на сохах», старадаўняя будаўнічая сістэма, у аснове якой выкарыстанне сох — вертыкальна ўкапаных у зямлю натуральных ці раздвоеных уверсе дрэў. У развілкі закладваліся *сволакі*, на якія апіраліся канструкцыі *страхі*. Гэта сістэма дазваляла рацыянальна перадаваць цяжар будынка на зямлю, што было важна ў раннія перыяды будаўнічай практыкі, калі злучэнні драўляных элементаў былі яшчэ недасканалымі. У аснове С. к. — уменне выкарыстоўваць натуральныя прыродныя формы. У нар. архітэктуры па ўсёй Беларусі С. к. шырока выкарыстоўваліся пры пабудове гумнаў, хлявоў, павецяў. *С. А. Сергачоў.*



Спарышы.

**СПАВІВАЧ,** пояс для спавівання немаўлят. Лакальная назва павівач. Да пач. 20 ст. ў якасці С. найчасцей выкарыстоўвалі шырокія тканыя паясы, якімі звычайна падпяразвалі адзенне. Выраблялі таксама спецыяльна: С. ткалі на ніту, вязалі пруткамі або кручком, шылі з тканіны. На Гродзеншчыне тканыя С. адрозніваліся колерам у залежнасці ад полу дзіцяці (хлопчыкаў спавівалі звычайна сінімі ці зялёнымі паясамі, дзяўчынак — ружовымі ці чырвонымі).

**СПАДНІЦА,** састаўная частка жаночага касцюма беларусаў; паясная адзежына ў выглядзе некалькіх сшытых полак тканіны, сабраных на пояс. Узнікла ў свецкім касцюме 14 ст., відаць, адначасова з фарміраваннем тагачаснага еўрапейскага крою з ліфам, вытачкамі, акруглай проймай рукавоў і г. д. У бел. касцюме заможных класаў вядома з 16 ст., а ў нар. касцюме пашырылася даволі позна (яшчэ ў 19 ст. жыхары асобных раёнаў Палесся не ведалі слова «С.» і характэрных для яе відаў крою). Вядомы два шляхі ўзнікнення С. ў традыцыйным нар. касцюме. Першы, калі С. гараджан (*андарак, саян*, сукня), пашытыя з мануфактурных (крамных) тканін, пад уплывам сацыяльна-эканам. змен феадальнай вёскі і заходнееўрапейскай моды трапілі ў сялянскае асяроддзе. Другі — у працэсе эвалюцыі з старадаўняга фартуха-запаскі: дастаткова было злучыць бакавыя кромкі пярэдняга і задняга фартухоў у турава-мазырскім строі або берагі шырокага фартуха ў пінска-івацэвіцкім строі, каб утварылася С. Пацвярджэннем гэтаму служыць пашыраная ў Зах. Палессі назва «фартух» у значэнні «С.». У канцы 19— пач. 20 ст. на Беларусі С. шылі з даматканага палатна, сукна, паўсукна або з фабрычнай шарсцянкі, камкі, саціну — андарак, *бурка*, саян, дрыляк, даматкан, рабак, бяляк, сіняк, летнік, палатнянік і інш. (назвы паходзілі ад якасці выкарыстанай тканіны ці пары года, для якой прызначалася С.). Разнаколерныя С. прасавалі ў складкі, аздаблялі ўзорыстым натыканнем, вышыўкай, нашыўкамі тасьмы, стужак, якія выкладалі паліхромным шлякам па нізе. *М. Ф. Раманюк.*

**СПАДЧЫННАЕ ЗВЫЧАЁВАЕ ПРАВА,** гл. ў арт. *Звычаёвае права.*

**СПАРЫШЫ,** ганчарны выраб; гліняная пасудзіна з 2 ці 3 *гаршкоў* (зрэдку і сальніцы) аднолькавага ці рознага памеру, змацаваных ручкай (да гаршкоў рабілі накрыўкі). Называлі таксама парнікі, двайнічкі, блізняты. У С. насілі ежу на поле ў сенакос ці жніво.

**СПАС,** старажытнае свята земляробчага календара, прымеркаванае да часу выспявання садавіны, гароднiны. З'яўляўся мяжой паміж летнім і асеннім цыкламі работ. У асобных мясцовасцях, у залежнасці ад прыродных умоў, са С. пачыналі сяўбу азімых, капалі ранню бульбу, падглядвалі пчол. Падгляд пчол меў характар сталага звычаю. Паводле нар. календара, са С. пачыналася ранняе *бабіна лета* («Прыйшоў спас — і лета ад нас»). Раней на С. наладжваліся кірмашы, на якіх прадавалі садавіну, гародніну, мёд. С. папярэднічаў пост. На Беларусі найбольш пашыраны быў другі С.— т. зв. яблычны (святкаваўся 6 жніўня с. ст.). Лічылася, што да С. нельга было есці яблыкі. Царква прымеркавала да яго свята «пераўтварэння Хрыста», надала нар. рытуалам рэлігійнае значэнне (асвячэнне пладоў, насення). Рэшткі стараж. свята выяўляліся ў імкненні ласавацца ў гэты дзень садавінай («Прыйшоў спас — па ўсё час»). У жніўні святкаваліся таксама менш значныя першы (мядовы) і трэці С.
*А. В. Цітавец.*

**СПЛАЎШЧЫКІ,** рабочыя на *плытах*; тое, што і *плытагоны.*

**«СПЛЮ́ШКА»**, традыцыйны танец. Танцуюць «С.» звычайна ўтрох: удвух пад рукі або ўзяўшыся за рукі вядуць трэцяга, які хістаецца «клюе носам» (робіць выгляд, што спіць на хаду). Партнёры ўсяляк стараюцца яго разбудзіць: злёгку адпіхваюць, тузаюць за рукавы, заглядаюць у твар. Так выглядае гульнёвая завязка танца. Нарэшце спячы прачынаецца і, рэзка ўзмахнуўшы рукамі, вызваляецца ад сваіх «апекуноў». Далей пачынаецца сам танец. Яго ўдзельнікі паўтараюць адно калена — до-за-до адзін з адным (кожны абходзіць вакол партнёраў і вяртаецца на сваё месца). Абход праходзіць у даволі жвавым тэмпе, ход — крокі з лёгкім, энергічным падшарквannем, якое перамяжоўваецца прытупваннем. Рукі з выцягнутымі далонямі разведзены ў бакі і злёгку прыпадняты, але не вышэй плеч. Кожны крок суправаджаецца ўзмахам рук (рукі ў локцях не згінаюцца). Танец заканчваецца агульным трайным прытупам, які суправаджаецца цахілам галавы і корпуса. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДІ бел. танцавальнай творчасці МІК у некалькіх раёнах Брэсцкай вобласці.
*А. Л. Варламаў.*

**СПРУЖЫНО́ЎКА**, фабрычная прылада для рыхлення і культывацыі глебы са спружыннымі зубамі на металічнай аснове. Называлася таксама спрунжыноўка, пружыноўка.

**СТАВЫ́**, апорны каркас у *кроснах*.

**СТА́ЙЛІНА**, бортнае дрэва. Дрэва з дзвюма борцямі называлі блізняком, з трыма — маткай, з чатырма — каралевай. Хваёвыя С. звычайна былі крамлёныя — са ссечанай верхавінай (шчыкам). Такое дрэва разрасталася ў таўшчыню і набывала большую ўстойлівасць супраць ветру. У лесе, на старых могілках, часам і на сялянскіх сядзібах яшчэ і ў наш час можна знайсці С. Кожная С., што зберaглася да нашага часу,— каштоўны помнік матэрыяльнай культуры.

**СТА́ЙНЯ**, к а н ю ш н я, гаспадарчая пабудова для ўтрымання коней. На сялянскай сядзібе ўзводзілася ў агульнай сістэме гасп. пабудоў. Канструкцыйна (акрамя 1—2 вузкіх ваконцаў) нічым не адрозніваецца ад *хлява*. У С. выгароджвалася стойла, асобнае для кожнага каня. Уваход у стойла перагароджваўся завалай — папярочнай жэрдкай на дзвюх драўляных або жалезных скобах. Сена клалі ў яслі — кармушку з планак або пруткоў, прымацаваную ў стойле наўскос да сцяны С. На Беларусі ў большасці сялянскіх гаспадарак коні стаялі ў адным хляве з інш. жывёлай. У калгасных С. стойлы размешчаны ўздоўж адной ці абедзвюх падоўжных сцен, бакавы або цэнтральны (скразны) праход злучае дзверы ў процілеглых тарцовых сценах. Такія С. маюць падсобныя памяшканні для захоўвання фуражу і збруі і для дзяжурных конюхаў. *У. С. Гуркоў.*

**СТА́ЛЬКІ**, самагучальны ўдарны музычны інструмент; сагнуты ў форме трохвугольніка стальны прэнт; тое, што і *вугольнік*.

**СТАЛЬМАХІ́**, рамеснікі па вырабу *калёсаў* і колаў; тое, што і *калёснікі*.

**СТАЛЬМА́ШНАЕ РАМЯСТВО́**, выраб транспартных гужавых сродкаў. Аб'ядноўвае шэраг функцыянальна блізкіх промыслаў: выраб колаў, *калёс, мажар, брычак, саней, вазкоў* і інш. Выраб колавых (летніх) транспартных сродкаў больш складаны, чым выраб палазных (зімовых). Неаднароднасць асабліва выразна выяўляецца ў майстраванні карпусоў вазоў і вырабе колаў да іх. Карпусы рабочых вазоў для ўласных патрэб рабілі многія сяляне, якія валодалі навыкамі дрэваапрацоўчага майстэрства, аднак колы да іх часцей куплялі ў майстроў-стальмахоў (гл. *Калёснікі*). Выраб колаў патрабаваў высокага майстэрства і ўмення, спецыяльных прыстасаванняў і інструментаў (*парня, гбала, колесня, такарны станок* і інш.). Ён часта вылучаўся ў самастойны промысел, цесна звязаны з рынкам. Вытворчасць колаў была дыферэнцыраванай (гнуццё абадоў, выраб калодак, акоўка колаў). Так, гнуццё абадоў кааперавалася з гнуццём санных палазоў і дуг, выраб калодак для колаў — з *такарным рамяством*, акоўка колаў — з *кавальствам*. Абады для колаў выраблялі з гнуткіх парод драўніны — дубу, вязу, клёну. Загатоўкі для абадоў папярэдне распарвалі ў парні ці лазні і гнулі на гбале (бабе). Тым жа спосабам гнулі дугі і санныя палазы, гбала для гэтага мела адпаведныя формы. Сагнутыя абады звязвалі па канцах і здымалі з гбалы, затым іх сушылі каля 2 тыдняў: летам — на сонцы, зімой — у хаце каля печы. Калодкі для колаў выраблялі з бярозы-чачоткі, радзей — з дубу ці нават вольхі. Спачатку ў іх выразалі лапаценем адтуліны пад вось калёс, затым на такарным станку апрацоўвалі вонкавую паверхню калодкі. У сярэдзіне па акружнасці калодкі выдзёўбвалі долатам 4-вугольныя гнёзды для спіц. Спіцы выраблялі з дубу ці ясеню, сушылі і забівалі ў гнёзды сырых калодак, дзякуючы чаму яны пры высыханні трывала замацоўваліся ў калодцы, вытрымлівалі вялікія нагрузкі. Насаджвалі спіцы звычайна не перпендыкулярна да калодкі, а з некаторым нахілам, каб папярэдзіць калыханне колаў на восі ў час руху. Пасля замацавання спіц на колесні насаджвалі абады. Пярэднія колы ў вазах рабілі крыху меншымі за заднія; пярэднія мелі звычайна 10 спіц, заднія — 12. На Беларусі найбольш пашыранымі былі абадныя колы. Яны вядомы з часоў Старажытнай Русі (раней сустракаліся ў скіфскіх і сарматскіх павозках). Былі і колы неабадныя: архаічныя суцэльнакругавыя (без спіц) і т. зв. звенчаковыя. Звенчакі (звоны) уяўлялі сабой выпіленыя з дубу ці бярозы дугападобныя часткі, што выкарыстоўваліся замест вобада. У пярэднім коле воза было 5, у заднім 6 звенчакоў, кожны з іх апіраўся на 2 спіцы. Для трываласці звенчакі злучалі ў месцах стыку драўлянымі кляцамі (пальцы) і сцягвалі жалезнай шынай. Яшчэ ў пач. 20 ст. сялянскія вазы рабілі амаль цалкам з дрэва. Вазы на драўляных восях сустракаліся да сярэдзіны 20 ст. Колы на драўляную вось мелі больш доўгую і патоўшчаную калодку з шырокай адтулінай. Для павелічэння тэрміну службы ў адтуліну кола з двух бакоў забівалі выкаваныя ў кузні жалезныя ўтулкі (букса), а паверх калодкі нацягвалі абручыкі (рэхва). Выкарыстанне жалезных шын, балтоў і хамутоў рабіла неабавязковым ужыванне цэльных абадоў. У наш час побач са звенчаковымі вырабляюць і колы з вобадам, што складаецца з 2—3 гнутых частак. Такія колы выраблялі ў асноўным на прадпрыемствах арцельнага тыпу. З апошняй трэці 20 ст. ў рабочых вазах усё часцей ужываюць гумавыя колы. Выцясненне гужавых транспартных сродкаў аўтамабілем прывяло да прыкметнага скарачэння С. р. У наш час стальмахі робяць карпусы простых рабочых павозак і саней для патрэб кааператыўных і асабістых гаспадарак. *В. С. Цітоў.*

**СТАЛЮ́ГА** 1) прыстасаванне для сталярных работ; тое, што і *варштат* сталярны. 2) Прыстасаванне для распілоўкі бярвён на дошкі; высокія козлы.

**СТАЛЯ́РНЫЯ ВЫ́РАБЫ**, разнастайныя па функцыянальнаму прызначэнню драўляныя вырабы, прадметы *сталярства*. Канструкцыйныя і функцыянальна-эстэтычныя вартасці С. в. абумоўліваліся ўзроўнем вытворчых сіл, сацыяльнай дыферэнцыяцыяй, рэгіянальна-этнагр. асаблівасцямі матэрыяльнай культуры, а таксама асабістымі магчымасцямі, мастацкімі ўяўленнямі, густамі. Часцей за ўсё майстры-сталяры спецыялізаваліся на вырабе *мэблі*, прадметаў інтэр'ера, прыкладных элементаў жылля — аконных рам, *дзвярэй, ліштваў*, карнізаў, дахавых матэрыялаў і інш. Валодаючы разнабаковымі навыкамі дрэваапрацоўкі, сталяры ў вялікай колькасці выраблялі с.-г. інвентар, вытворчыя прылады, хатняе начынне, транспартныя сродкі, а таксама *сохі, бароны, вілы, цапы, граблі, лапаты, ткацкія станы*, карпусы вазоў і інш. Пароду драўніны выбіралі ў залежнасці ад функцыянальнага прызначэння і эстэтычных уласцівасцей пэўных вырабаў, а таксама ад тэхнічнай магчымасці іх апрацоўкі. Найбольш падатлівая асіна ішла на выраб простай сялянскай мэблі: сталоў, табурэтаў, услончыкаў, куфраў, суднікаў, палічак. З вольхі і бярозы рабілі лыжкі, шафы, камоды, кухонныя паліцы; з бярозы — і с.-г. прылады. Дуб і ясень выкарыстоўвалі для асады вокнаў, вырабу каштоўнай мэблі і інш. Кляніна была прыдатная для ручак прылад працы, брускоў рамесных інструментаў. Буйнагабарытныя рэчы, рознае начынне, с.-г. прылады выраблялі з сасны і елкі; аднак у сталярстве нар. майстры аддавалі перавагу лісцевым пародам.

Большасць С. в. рабілася для ўласных патрэб і па заказу, радзей збывалася на рынку. З развіццём сучасных галін дрэваапрацоўчай прамысловасці — мэблевай, домабудаўнічай, лесапільнай, тарнай і інш.— вытворчасць С. в. атрымала новыя напрамкі і якасныя параметры развіцця. *В. С. Цітоў.*

**СТАЛЯ́РСТВА,** адзін з відаў *дрэваапрацоўчых рамёстваў*, вытворчасць *сталярных вырабаў*. Спалучалася з *цяслярствам* (дойлідствам), што абумоўлівалася адзінай функцыянальнай мэтай — арганізацыяй жылога асяроддзя і стварэннем адпаведных жыллёвабытавых умоў. Адпак характар працы, складанасць рамеснай тэхнікі, разнастайная наменклатура вырабаў вылучалі С. ў самастойнае рамяство. С., якое было звязана з апрацоўкай малагабарытных форм, сканцэнтравалася на завяршальнай стадыі будаўніцтва (аздабленне жылля і культавых пабудоў, асада вокнаў і дзвярэй, выраб неабходнага абсталявання і прадметаў інтэр'ера — аконных рам, дзвярэй, мэблі, іканастасаў, хатняга начыння і інш.). С. грунтавалася на трывалых вытворчых традыцыях, дасканалым веданні тэхналагічных якасцей мясцовай драўніны, патрабавала рознабаковых навыкаў і валодання тыпалагічна разнастайнымі *дрэваапрацоўчымі інструментамі* і прыстасаваннямі. Сярод розных відаў *піл* найбольш шырока ўжывалі лучковую і нажоўку. *Сякеру* выкарыстоўвалі на розных стадыях вытворчага працэсу, асабліва для першаснай апрацоўкі зададзеных форм і канструкцый. Для спецыяльнай апрацоўкі тых ці іншых форм ужываліся разнастайныя стругальныя інструменты — *стругі, скоблі, гэблі*. Найбольш стараж. і распаўсюджаныя ў С. стругі адрозніваліся паміж сабой формай ляза, яго даўжынёй і пастановай ручак (з прамым лязом; авальна выгнутым пасярэдзіне, з перпендыкулярна пастаўленымі ручкамі). Сярод інструментаў тыпу гэбляў найбольш часта выкарыстоўвалі гэблік, баран і *фуганак*. Для апрацоўкі фігурных паверхняў ужываліся шархебель, адборнік. З даўбёжных інструментаў шырока выкарыстоўвалі *долата* і стамескі, са свідравальных — свердзел, дрэль, калаўрот. Важную ролю выконвалі вымяральныя прылады — аршын, размер, вугольнік, грунтвага (для вызначэння вертыкальнага становішча), *дрäка* і інш. Неабходным прыстасаваннем майстра-сталяра быў *варштат*, яго ставілі ў сенцах, адрыне або пад навеццю. Спецыяльнае памяшканне, абсталяванне пад майстэрню, часцей сустракалася ў гарадскіх або мястэчковых сталяроў. Амаль у кожным панскім маёнтку былі майстэрні для аднаго або некалькіх сталяроў, якія былі прыпісаны да чэлядзі і працавалі часцей за ўсё на правах прыгонных майстроў. Нягледзячы на спецыялізацыю, што больш выразна назіралася ў гарадах і мястэчках, С. звычайна спалучалася не толькі з іншымі дрэваапрацоўчымі рамёствамі, але і з земляробствам. Многія сяляне, што валодалі сталярскімі навыкамі і вялі сваю гаспадарку, у парадку адбывання паншчыннай павіннасці прымалі ўдзел у будаўніцтве панскіх маёнткаў, цэркваў, мастоў і інш. С. насіла прыкметны сезонны (у асноўным асенне-зімовы) характар. Майстрысталяры працавалі звычайна ў адзіночку, некаторыя бралі сабе вучняў (хлопчыкаў з 12-гадовага ўзросту) ці падсобных работнікаў, якія працавалі па найму.

У сярэднявечча важную ролю ў арганізацыі С. адыгрывалі цэхі. З ажыўленнем таварна-грашовых адносін і развіццём капіталістычнага ўкладу адбываліся змены ў сацыяльнай структуры і характары С., якое з надомнага станавілася асобнай галіной капіталістычнай прамысловасці. У наш час пашырылася арцельная форма арганізацыі нар. рамёстваў; сталярна-мэблевыя арцелі існавалі амаль у кожным раёне БССР. З удасканаленнем арганізацыйнай асновы і механізацыяй вытворчых працэсаў арцелі паступова набылі форму сучаснага прамысловага прадпрыемства. Народныя рамёствы паслужылі зыходнымі вытокамі развіцця сучасных галін дрэваапрацоўчай прамысловасці — мэблевай, домабудаўнічай, лесапільнай, тарнай. Нягледзячы на агульнае скарачэнне, С. прадаўжае развівацца ў выглядзе дробнага надомнага промыслу. *В. С. Цітоў.*

**СТАНАВІ́СКА,** 1) драўляная (пераважна дубовая) падстаўка, на якую ставілі калодныя вуллі, звычайна стаякі. Лежакі размяшчалі на сталюжках рознай формы. Бараніла пчаліную сям'ю ад пранікнення з зямлі вільгаці, а калоду ад загнівання. 2) У паляўнічтве месца, дзе стаіць стралок падчас аблавы з нагонкай.

**СТАРАВЕ́РЫ,** назва шэрагу этнаканфесіянальных груп рускага насельніцтва. Паяўленне С. звязана з расколам рускай праваслаўнай царквы ў сярэдзіне 17 ст. Прыхільнікі «старой веры», якія выступілі супраць рэформы патрыярха Нікана, падвергліся ганенням царскіх улад і афіцыйнай царквы. Ратуючыся ад праследаванняў, С. ўцякалі на Урал, у Сібір, за межы Расіі, у т. л. ў Рэч Паспалітую. На Беларусі паявіліся ў 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст. Галоўнае паселішча — Ветка (цяпер Гомельская вобл.). У 1735 і 1764 Ветка была зруйнавана царскімі войскамі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі (канец 18 ст.) уціск на С. паменшыўся. Нягледзячы на прыналежнасць да розных сектанцкіх плыняў (федасееўцы, піліпаўцы, папоўцы і інш.), яны ўтварылі аднародную этнічную групу, замкнёнасць якой узмацнялася канфесіянальнай адасобленасцю. У дарэвалюцыйны час С. складалі значную частку (да 1863 пераважную большасць) рускага насельніцтва Беларусі. Агульная колькасць у пач. 1860-х г.— звыш 34 тыс. чал. (1,1 % насельніцтва Беларусі), у 1897—63 тыс. (0,98 %), у 1913 — каля 98 тыс. (1,1 %). Найбольш шматлікія групы ў сярэдзіне 19 ст. пражывалі ў Гомельскім (звыш 11 % насельніцтва), Віцебскім (6,6 %), Полацкім (5,8 %), Сеннënскім (2,9 %), Дзісенскім (2,3 %), Бабруйскім (2,2 %) і Барысаўскім (1,4 %) паветах. Каля 28 % С. жыло ў гарадах. Займаліся пераважна земляробствам, рамяством і гандлем. Аднасна замкнёны лад жыцця абумовіў захаванне традыцыйнай матэрыяльнай і духоўнай культуры. Пабудовы адрозніваліся буйнымі памерамі. Жыллё, звычайна трохкамернае, падзялялася на жылую і чыстую палавіны. Жылая выкарыстоўвалася для розных гаспадарчых заняткаў, чыстая (у ёй былі звычайная руская ці галандская печ, самаробная або фабрычная мэбля, скрыні з адзеннем) — як спальня і гасцінная. У асобным пакойчыку была малельня. Характэрная прыкмета сядзібы С.— лазня. Мужчыны насілі доўгі каптан, камізэльку або паддзёўку, кашулю-касаваротку навыпуск, шырокія штаны, боты з высокімі халявамі, лапці, жанчыны — сарафан, дзяўчаты — кашулю са спадніцай; зімой — доўгі кажух, шубу, футравы салоп. Ежа складалася з традыцыйных рус. страў — капусты, кашы, квасу і інш. У фальклоры захоўваліся мясцовыя асаблівасці продкаў С. Спецыфічныя рысы вызначалі нар. дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, культавы жывапіс.

Працэсы міжэтнічнай інтэграцыі С. з беларусамі атрымалі пэўнае развіццё яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд. Слоўнікавы склад мовы С. папаўняўся бел. запазычаннямі. Паводле перапісу 1897 больш 12 % С. лічылі роднай мовай беларускую. У выніку спалучэння мастацтва разьбы С. з мясцовымі традыцыямі склалася своеасаблівая школа аздаблення жылля на ПдУ Беларусі (гл. *Веткаўская разьба*). Вядомы выпадкі запазычання беларусамі танцаў, песень С. Узоры нар. мастацтва, мясцовай школы іканапісу збіраюцца, захоўваюцца і даследуюцца ў *Веткаўскім музеі народнай творчасці*.

З этнагр. пункту гледжання С. на Беларусі вывучаны недастаткова. Найбольш дасканала распрацавана гісторыя С. Некаторыя этнагр. звесткі пра іх пакінулі А. Кіркор, А. М. Семянтоўскі, М. В. Доўнар-Запольскі, Е. Р. Раманаў і інш.

У наш час узровень рэлігійнасці С. панізіўся, што, асабліва ў буйных гарадах, садзейнічала знікненню іх былой ізаляванасці. У сельскай мясцовасці і невялікіх гарадах асаблівасці традыцыйнай культуры С. захоўваюцца і цяпер. *П. У. Церашковіч.*

**СТАРАЖНЯ́,** традыцыйная рыбалоўная снасць для лоўлі драпежнай рыбы, пераважна шчупакоў. Называлі таксама жэрліца, рагулька, пастоўня. Уяўляла сабой драўляную рагульку, на якую намотваўся шнур, аснашчаны грузілам, а на канцы — басам (кавалкам тонкага дроту, каб рыба не змагла пе-

ракусіць шнур) і двайным ці трайным кручком. На кручок насаджвалі жывую рыбку. С. прывязвалі да куста або да калка, убітага ў дно вадаёма. Частку шнура адмотвалі і, зацiснуўшы яго ў расшчэплены канец рагулькі, апускалі жыўца ў ваду. Рыбіна, праглынуўшы прынаду разам з кручком, размотвала астатнюю частку шнура і плавала недалёка ад месца ўстаноўкі С. да прыходу рыбака. Зімой С. ўстанаўлівалі ў палонках. Лоўля рыбы С. была пашырана на вадаёмах Віцебскай, Магілёўскай і ПнУ Гомельскай абласцей. У падлёдным рыбалоўстве паазерскія рыбакі выкарыстоўвалі разнавіднасць С.— кузюрку, шнур якой намотвалі на дошчачку. У аматарскім рыбалоўстве выкарыстоўваецца і ў наш час.



Старажня.

**СТАРАСВЕ́РЖАНСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1957 па ініцыятыве настаўніка Старасвержанскай СШ І. А. Шавеля ў в. Стары Свержань Стаўбцоўскага р-на як школьны музей, з 1.9.1986 калгасны. Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл. 162 м²), 1,9 тыс. экспанатаў (1988). У гісторыка-краязнаўчым аддзеле матэрыялы археалагічных раскопак на тэр. Стаўбцоўскага р-на, па гісторыі в. Стары Свержань і суседніх вёсак, пра перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі, падзеі грамадзянскай вайны на тэр. Стаўбцоўскага р-на, барацьбу працоўных Зах. Беларусі за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне і ўз'яднанне з БССР, партызанскі рух, дзейнасць падпольных Стаўбцоўскіх раённых камітэтаў КП(б)Б.і ЛКСМБ у гады Вялікай Айчыннай вайны, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры ў пасляваенны перыяд, Старасвержанскі нар. хор. Экспануюцца экземпляры газ. «Наша ніва», прагрэсіўныя зах.-бел. выданні, падпольныя газеты і лістоўкі, зброя і асабістыя рэчы партызан, дакументы, фотаздымкі часоў Вял. Айч. вайны, матэрыялы, фотаздымкі пра партыйных і дзярж. дзеячаў БССР, удзельнікаў вызвалення Стаўбцоўшчыны. Прадстаўлены матэрыялы пра К. Каганца, Я. Купалу, Я. Коласа, У. Сыракомлю, Дз. Фанвізіна, успаміны Я. Брыля, К. Крапівы. У этнагр. аддзеле вырабы бел. дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, нар. адзенне, прадметы сялянскага побыту канца 19 — пач. 20 ст.

*С. А. Галоўка.*

**СТА́ТУТЫ ВЯЛІ́КАГА КНЯ́СТВА ЛІТО́ЎСКАГА,** асноўныя зборы законаў, дзе замацаваны грамадскі і дзяржаўны лад, прававое становішча розных слаёў насельніцтва: класаў, саслоўяў і сацыяльных груп. Першы Статут уведзены ў дзеянне з 29.9.1529 (13 раздзелаў, 278 артыкулаў), другі — з 1.3.1566 (14 раздзелаў, 367 артыкулаў), трэці зацверджаны 28.1.1588 (14 раздзелаў, 487 артыкулаў). Статут 1588 дзейнічаў да 1831 у Віцебскай і Магілёўскай губ., да 1840 у Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губ. Статуты былі падрыхтаваны на аснове мясцовага *звычаёвага права* і судова-адміністрацыйнай практыкі. У іх адлюстраваны сацыяльная структура грамадства, службовыя асобы і адміністрацыйна-службовыя адносіны, сістэма цэнтральных і мясцовых органаў улады, кіравання і суда, паказаны прафесіі насельніцтва, найбольш пашыраныя прадметы хатняга ўжытку, прылады працы, адзенне, свойская і дзікая жывёла і кошт яе, вызначаны кошт зямлі, меры даўжыні, аб'ёму і вагі і інш. Значная ўвага аддадзена шлюбна-сямейнаму і маёмасным правам. У Статутах зафіксаваны 2 асноўныя тыпы сям'і: малая і вялікая. Малая складалася з бацькоў і нежанатых дзяцей, вялікая — з бацькоў і жанатых ці замужніх дзяцей або неаддзеленых братоў са сваімі жонкамі і дзецьмі. У шлюб маглі ўступаць асобы, якія дасягнулі пэўнага ўзросту, не знаходзіліся ў другім шлюбе і не былі блізкімі сваякамі. У Статутах вызначаны шлюбны ўзрост для дзяўчат і хлопцаў. Маладая, калі яна выходзіла замуж, атрымлівала ад бацькоў або родных *пасаг* (выправу); для забеспячэння маёмасных інтарэсаў жонкі на выпадак яе ўдаўства муж павінен быў запісаць ёй *вена* на $^{1}/_{3}$ маёмасці сям'і. Прывенак — двайная сума за пасаг. У выпадку смерці бацькі дзеці, якія жадалі выкупіць у маці частку маёмасці, запісанай як прывенак, не абавязаны былі за яго плаціць. Прызнанне ў Статутах маёмасных правоў жанчын забяспечвала ім пэўную свабоду як у распараджэнні сваёй асабістай маёмасцю, так і ў вядзенні агульнай гаспадаркі. У Статутах 1566 і 1588 больш увагі аддадзена спадчыннаму праву, спецыяльны раздзел прысвечаны завяшчанням, істотныя змены ўнесены ў крымінальнае права.

Статуты напісаны на бел. мове, з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння гісторыі права і прававой этнаграфіі бел. народа.

*І. А. Юхо.*

**СТАЎ,** плаціна вадзянога млына, якая запруджвала рэчку. С. называлі і інш. запруды ў вадаёмах, а таксама невялікую сажалку ці агароджаную частку вадаёма, прызначаную для рыбаводства. Будаўніцтва С. было павіннасцю сялян, замацаванай «Уставай на валокі» 1557. За самавольную лоўлю рыбы ў С. Статут Вял. кн. Літоўскага 1588 прадугледжваў пакаранне. У 19 ст. С. ўваходзілі ў сістэму вадаёмаў рыбаводных гаспадарак.

*І. М. Браім.*

**СТАЎБАВЫ́ АБРА́Д,** абрад, якім каля прыпечнага стаўба, што меў рытуальнае значэнне, пачыналася *вяселле* ў доме маладога і ў доме маладой. Называлі яшчэ зачынальны абрад, рада, баслабожа. У С. а. ўдзельнічала сельская абшчына пад кіраўніцтвам яе старшыні, пазней — дружка (тысяцкага). У доме маладога абрад адбываўся пры ўдзеле радні і суседзяў перад яго ад'ездам да маладой. Малады і ўдзельнікі *вясельнага поезда* перад ад'ездам садзіліся за стол разам з блізкімі сваякамі маладога. Дружко (пазней часам маці, якая ўваходзіла ў хату з двума пірагамі), кланяючыся на ўсе бакі, тройчы звяртаўся да прысутных з запытаннем, хто з іх праспявае «песню старую, дарагую». Існавала некалькі варыянтаў гэтага звароту. Звычайна з натоўпу адзываўся староннi мужчына або госць (стаўбаў, пачынальнік, радчык, запявала, выкрыкальнік), хто ведаў прамову-зварот благаславіць (пачаць) вяселле і праспяваць пачынальную (стаўбавую) песню. Часам стаўбавы браў сабе каго-небудзь у памочнікі. Часцей за ўсё са стаўбавым загадзя дамаўляліся, і ён, згодна з традыцыяй, прыходзіў на вяселле іншы раз у дранай вопратцы, лапцях, рукавіцах. Скончыўшы з дружкамі торг, стаўбавы прасіў прысутных благаславіць яго сесці на «стоўп». Затым, узяўшы дзве булачкі, ішоў да печы і, сеўшы на стоўб або палок, прасіў благаслаўлення «раду спець, вяселле пачаць», «Кузьму гукаць». Стаўбавая песня (або прамова) уяўляла сабой формулу, якая заклікала раду багоў з'явіцца на раду людзей і выканаць свае функцыі пры здзяйсненні шлюбнага абраду. Скончыўшы песню-прамову, стаўбавы кідаў булачкі дзецям, якія тоўпіліся ў парозе. Стаўбавому падносілі выпіць і закусіць. Толькі пасля гэтага прысутныя пачыналі частавацца за сталом. У некаторых мясцовасцях Віцебшчыны хросны бацька, які сядзеў на куце, у час С. а. трымаў у руках два маленькія пірагі, адзін з якіх пасля выкання песні клаў на бажніцу, другі кідаў запявале. Перад кожным рытуальным дзеяннем дружко гаварыў спецыяльную слоўную формулу — зварот да абшчыны, роду, дому жаніха, дому нявесты і г. д. Гэтак жа адбываўся С. а. у доме маладой. Пачынаўся ён перад або адразу пасля прыезду жаніха. С. а. выконваўся пераважна на ПнЗ, але рэшткі яго сустра-

каюцца па ўсёй Беларусі. Узнік С. а. у родаабшчынным побыце, гіст. форма яго захоўвалася да пач. 20 ст. Калі першапачатковае значэнне абраду пачало сцірацца, яго выконваў не стаўбавы, а сам дружко (Мсціслаўскі пав.). С. а. паступова набываў жартоўна-пацешлівы характар. *Л. А. Малаш.*

**СТА́ЎЧЫК,** ганчарны выраб; тое, што і *бабачнік.*

**СТАЙ́К,** моцная калода (найчасцей дубовая ці смалістая), якую ўкопвалі ў зямлю пад вугал будынка; тое, што і *штандара.*

**СТО́ЙКА,** прыстасаванне ў выглядзе табурэткі з прарэзанай у верхняй дошцы круглай дзіркай, у якую ставяць дзіця, каб прывучыць яго стаяць на нагах.

**СТОЛ,** від *мэблі.* Уяўляе сабой шырокую дошку-стальніцу прамавугольнай, квадратнай, круглай формы на чатырох (радзей на адной ці дзвюх) ножках. Функцыянальна вельмі разнастайныя (абедзенныя, кухонныя, для гульняў, чытання і інш.). Вядомы здаўна. Набылі пашырэнне ў сядзібных і палацава-замкавых інтэр'ерах феадальнай эпохі; аздабляліся разьбой, інкрустацыяй, тачэннем. У нар. жыллі мелі простую форму, звычайна «на казюлях» (козлах у выглядзе чатырох Х-падобна скрыжаваных ножак). З 19 ст. пашыраюцца С. з падстоллем (нярэдка з шуфлядамі) на 4 прамых ножках, часта точаных. У *інтэр'еры хаты* займалі месца на покуці, звычайна накрываліся абрусам. У наш час саматробныя С. саступілі месца фабрычным вырабам розных форм, памераў і прызначэння. *Я. М. Сахута.*

**СТО́ЛІНСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1954 у г. Столін, адкрыты 5.11.1955. Размешчаны ў пары сядзібы Манькавічы. Мае 6 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 206 $м^2$), больш за 8 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: археалогіі, прыроды, гісторыі дасав. і сав. перыядаў. У экспазіцыі прадметы эпохі неаліту і бронзавага веку (бронзавыя фібулы і шпількі, гліняныя праслíцы і інш.), этнагр. калекцыя (прылады працы і побыту, адзенне), кальчуга 13 ст., зброя і абмундзіраванне салдат рус. арміі часоў Айч. вайны 1812, фотакопіі дакументаў пра становішча прыгонных сялян, сялянскія хваляванні, самаробныя мячы паўстанцаў у 1863—64 і інш.; дакументы і матэрыялы пра ўстанаўленне Сав. улады ў краі, барацьбу працоўных Зах. Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў часы панавання буржуазнай Польшчы, партызанскі і падпольны рух у Вял. Айч. вайну, вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, развіццё нар. гаспадаркі і культуры. Экспануюцца работы самадзейнага майстра-разьбяра па дрэве, засл. дзеяча мастацтваў БССР К. Казелкі, мясцовага мастака Ю. Сергіенкі, вырабы з керамікі і дрэва мясцовых майстроў. *С. А. Луцкая.*




Тыпы скляпеністай **столі:** 1 — створаны канструкцыяй закоту; 2, 3 — створаныя за кошт паніжэння сволакаў; 4 — **столь** на бэльках (з выгнутай паверхняй).



**Стол.** Вёска Старынкі Валожынскага раёна. Пачатак 20 ст.

**СТОЛЬ,** канструкцыя перакрыцця або пакрыцця будынка, якая абмяжоўвае памяшканне зверху. Называлі таксама — сталяванне, суфіт, пакот, пацёс. У нар. будаўніцтве вядомы скляпеністая і гарызантальная С.




Тыпы гарызантальнай **столі:** 1 — дошкі пакладзены ўпрытык; 2—дошкі пакрыты аполкамі; 3, 4 — дошкі пакладзены ўразбежку; 5 — кароткія дошкі ў пазах бэлек; 6 — дошкі пакладзены на бруські.

Першапачатковa скляпеністая С. ствaралася непасрэдна канструкцыяй *закоту.* У гэтым выпадку будынак не меў падзелу на асноўнае памяшканне і гарышча. Пазней, каб зрабіць жылое памяшканне аптымальных памераў і палепшыць яго ацяпленне ўзімку, С. пачалі паніжаць: рабілі гэта за кошт паніжэння *сволакаў.* Пры змяншэнні іх колькасці скляпеністая С. стала ператварацца ў гранёную: яе рабілі з кароткіх дошак, пакладзеных на сволакі. Скляпеністая С. надавала своеасаблівасць інтэр'еру хаты, дазваляла лепш адводзіць дым ад курнай печы. Нават калі ў хатах гарызанталь-

ная С. стала асноўнай, доўга захоўвалася традыцыйнае ўяўленне пра яе скляпеністую форму. Напр., у хаце (в. Варотнае Пружанскага р-на) верхні бок бэлек быў абчэсаны такім чынам, што пакладзеныя на іх дошкі стварылі выгнутую паверхню. У наш час скляпеністая С. захавалася толькі ў *клецях.*

Гарызантальную С. рабілі з дошак, пакладзеных па *бэльках.* Дошкі клалі ўпрытык або з прамежкамі. У абодвух выпадках перакрывалі зверху дошкамі або аполкамі другога рада. Часам ніжні рад дошак на ўсю іх таўшчыню ўрэзвалі ў бэлькі. На Падняпроўі С. рабілі з кароткіх дошак, якія запускалі ў пазы, выдзеўбаныя наўсцяж бэлек. Больш сучаснае вырашэнне С.— з кароткіх дошак, пакладзеных на прыбітыя да бэлек брускі (пашырана па ўсёй Беларусі). На Палессі, Панямонні, Пд Цэнтр. Беларусі С. часцей за ўсё бялілі. Для ацяплення хаты пазы паміж дошкамі замазвалі глінай, зверху на С. клалі мох, насыпалі кастрыцу, пясок. Для выхаду дыму пры ацяпленні курнай печчу для коміна або стацыянарнага *лучніка* ў С. рабілі адтуліны. У сучасных будынках С. заўсёды робяць гарызантальнай, шырока выкарыстоўваюць індустрыяльныя канструкцыі і матэрыялы: зборныя жалезабетонныя, драўніна-стружкавыя і драўніна-валакністыя пліты, фанеру, сухую тынкоўку і інш. *С. А. Сергачоў.*

**СТО́ПКА,** гаспадарчая пабудова для захоўвання бульбы, гародніны, садавіны, малака і інш.; тое, што і *варыўня.*

**«СТРАДА́ННІ»,** гарадскі бытавы танец. Танцоры становяцца ў позу, тыповую для зах.-еўрапейскіх бальных танцаў (стаяць тварам адзін да аднаго), партнёр абдымае правай рукой партнёрку за стан, левай трымае кісць яе правай рукі, а левую руку партнёрка кладзе на плячо партнёра. На першыя такты мелодыі танцоры выконваюць чатыры факстротныя крокі ў адзін бок, затым чатыры крокі ў другі. На паўтор мелодыі выканаўцы спачатку кружацца ў пары рухам полька-вальс, а затым дзяўчына робіць некалькі абаротаў вакол сябе пад паднятай правай рукой партнёра. Гэты блок рухаў можа паўтарацца некалькі разоў запар. Выконваецца танец пад адзін са шматлікіх «страдальных» напеваў: «Ой, я страдала // Дзень і ночку // Ой, выстрадала // Сына і дочку». Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК па ўсёй Беларусі. *А. Л. Варламаў.*

**«СТРАЛА́»,** в а дж э н н е і п а х а в а н н е «с т р а л ы» («с у л ы»), даўні ахоўна-засцерагальны і магічна-аграрны веснавы абрад. Праводзіўся ў канцы вясны пры аглядах азімых (на *вялікдзень, Юр'я,* ушэсце). Рэгіён найб. пашырэння — Пасожжа, тэрыторыя паміж Дняпром і Прыпяццю, часткова Гомельская, Чарнігаўская і Бранская вобл. (супадае з вобласцю рассялення радзімічаў, часткова дрыгавічоў і вяцічаў). Асн. рытуальныя дзеянні: збор удзельнікаў, ваджэнне карагодаў, шэсці радамі («танок»), гульні, качанне па полі, закопванне «С.» і інш. «С.» завяршаўся веснавы каляндарна-земляробчы цыкл. Шанаванне «громных стрэлак» (камянёвыя тапары, молаты, коп'і, белямніты) — стараж. абрад. Паводле летапісаў 13—15 ст. і інш. пісьмовых і археалаг. матэрыялаў, лічылі, што яны скінуты з неба. Прымхлівае шанаванне камянёў было не толькі ў слав. народаў, а і ў Еўропе і Азіі. У Японіі «громныя стрэлкі» (рай-фунасекі) прыпісваюцца нябеснаму вартавому — богу Тэнгю. У кітайскім і індыйскім фальклоры ўпамінаюцца вераванні ў боскае паходжанне камянёвых прылад. «Стрэлкі» абагатвараліся, іх насілі на целе («наузы»), ім прыдаваліся ахоўная, магічна-лячэбная і апладняльная функцыі. Бел. археолагі сцвярджаюць, што «громныя стрэлкі» пачалі зберагацца неалітычнымі плямёнамі; А. М. Афанасьеў і У. Я. Проп лічаць іх фа́ласамі Ярылы. У час абраду «С.» абавязковай была песня «Ой, пушчу стралу па ўсяму сялу...». «Стрэлку» (розныя рэчы: шпількі, стужкі і інш.) закопвалі на ярыне, каб давала жыццё ёй, расцёртую ў парашок давалі цяжарным жанчынам. Забіты Перуном лічыўся «святым», таму ў песні і былі словы: «Забі, страла добра молайца». Паводле вераванняў, пажар, выкліканы маланкай, трэба тушыць малаком. Той, хто знаходзіў «стрэлку», лічыўся шчаслівым чалавекам. Песня «С.» бытуе цяпер у пазаабрадавай паэзіі ў розных варыянтах па ўсёй Беларусі. Найб. архаічныя варыянты з абрадам захаваліся ў Веткаўскім, Чачэрскім і некаторых сумежных раёнах, якія лічацца ядром распаўсюджвання «С.». У сучасным бытаванні «С.» ўспрымаецца як вясёлая нар. гульня. Паступовa песня губляе прымеркаванасць да канца вясны, наогул да абрадавай паэзіі; на аснове яе даўняга тэксту развіліся новыя варыянты. Абрад пахавання «сулы» (таксама зброя Перуна; суліца — коп'ё, рагаціна) — неаддзельны ад «С.». Падобныя да «С.» абрады пахавання Ярылы, Каструбанькі, Лялькі і інш. Культ «С.» выяўляецца ў тапанімічных назвах (Стрэліца, Стрэлка, Стрэльская Горка, Пастралкі, Стрэльск, Стрэлічаў, Вялікія Стрэлкі, Малыя Стрэлкі і інш.), у нар. мастацтве (у вышыўцы, разьбе па дрэве). Да Кастр. рэвалюцыі запісы «С.» зрабілі З. Ф. Радчанка, Е. Р. Раманаў, А. Я. Грузінскі, У. М. Дабравольскі, К. Машынскі; у наш час абрад даследавалі М. Картукоў, Г. А. Барташэвіч, В. Я. Гусеў, Л. М. Салавей, В. Д. Літвінка і інш. *А. Ю. Лозка.*




Страхі: 1 — двухсхільная (вёска Збляны Лідскага раёна); 2 — чатырохсхільная (вёска Слярыжжа Брагінскага раёна); 3 — трохсхільная (вёска Усохі Добрушскага раёна); 4 — з усечаным зверху франтонам («залобкам») (вёска Збляны Лідскага раёна); 5 — з усечаным знізу франтонам («прычолкам»).

**СТРАЛЬЦЫ́,** катэгорыя сялян-слуг у 15—17 ст., галоўны абавязак якіх — вартаваць лес, удзельнічаць у паляванні вял. князя ці буйных феадалаў, хадзіць у паходы. Паводле «Уставы на валокі» 1557 іх зямельны надзел — 2 вольныя ад павіннасцей валокі і 1 асадная (плацілі чынш). «Ардынацыя каралеўскіх пушчаў» 1641 зменшыла іх надзел да 1 валокі, вызваліла ад вайсковай службы; у час палявання павінны былі выставіць падводу. У гады, калі палявання не было, плацілі феадалу 3 капы грошай і 1 бочку аўса. У 17—18 ст. зліліся з чыншавымі сялянамі. *А. П. Грыцкевіч.*

**СТРАХА́,** д а х, верхняя частка будынка, якая пакрывае яго і засцерагае ад



Стругі.



Студня. Вёска Шчорсы Навагрудскага раёна.

атмасферных ападкаў, ветру, сонца. Складаецца з апорнай канструкцыі *(кроквы, латы)* і пакрыцця. Вядома некалькі відаў канструкцый С. на кроквах, якія адрозніваюцца спосабамі мацавання крокваў на зрубе. Найб. просты і старадаўні спосаб — апора крокваў непасрэдна на *ачэп*, у якім рабілі адпаведныя ўрубкі, куды ўстаўляліся ніжнія канцы крокваў і замацоўвалі тэблем або клінам. Такая канструкцыя магчыма ў невял. будынках, бо на сцены, акрамя цяжару С., у гэтым выпадку перадаюцца сілы распору. Больш дасканалая канструкцыя з выкарыстаннем *закоцвіны*, што дазваляе з дапамогай бэлек пагасіць частку сілы распору. Такая С. пашырана на Падняпроўі і Паазер'і. На ПдЗ Палесся выкарыстоўвалі апору крокваў на брус, пакладзены на канцах бэлек, што выходзілі звонку за межы сцен. Спарадычна, асабліва ў гасп. пабудовах, сустракаюцца архаічныя канструкцыі С. *закотам* (у покат, на лемягах, на гадунах), на стаяках (на козлах, на дзядках, на чапёлках, на крыжах, на сошках) і С. на *сохах*. Традыцыйныя матэрыялы для пакрыцця: салома, чарот, драпка, гонта. З 20 ст. выкарыстоўваюць бляху, чарапіцу; у сучасным будаўніцтве пераважае шыфер. На Беларусі вядома наступная тэхніка пакрыцця С. саломай: камлём уніз («пад стрыхоўку», «пад стрыхарку», «пад лапату», «пад шчотку», «пад бому»), каласамі ўніз («пад колас») і снапкамі. Паводле формы С. бываюць 1-, 2-, 3- і 4-схільныя (вальмавыя), паўвальмавыя («з вальмай», «з *залобкам*», «з лабяком», «з начолкам», «ламаны дах») і С. з усечаным знізу франтонам (*«з прычолкам»*). Верхняя грань С. завецца вільчыкам, ніжняя — капяжом, унутраная частка, якая звісае над зрубам,— падстрэшшам (падстрэшак). Найбольш характэрная для Беларусі форма С.— 2-схільная. Пра даўнасць двухсхільнай С. сведчыць яе сувязь з канструкцыяй закотам. 4-схільная С. кампактна бытуе толькі на Пд Гомельшчыны — у Мазырскім, Ельскім, Хойніцкім раёнах, спарадычна сустракаецца на У Магілёўскай і Віцебскай абласцей. *У. С. Гуркоў.*

**СТРАХАРЫ́**, майстры, якія крылі стрэхі саломай. У кожнай вёсцы былі свае С., якія ўмелі крыць добра страху саломай камлямі ўніз, радзей камлямі ўверх (калі саломы было мала). Прылада іх працы — *стрыхоўка*. Для крыцця страхі ўжывалі вытрасеныя кулі пераважна жытняй саломы. Зрэдку крылі мятай саломай, а на Палессі дзе-нідзе і чаротам. *Л. І. Мінько.*

**СТРУГ**, 1) сплаўнае пласкадоннае судна без паруса і палубы. Нос і карма завостраныя, дах двухсхільны. Даўжыня 36—38 м, шырыня 11 м, грузападымальнасць да 150 т. Хадзілі па Зах. Дзвіне. 2) Бандарны інструмент для апрацоўкі клёпак і гатовых вырабаў. Рэгіянальная назва скобель. Могуць быць з прамым або выгнутым лязом, з паралельна ці асіметрычна пастаўленымі ручкамі, што зручна пры вырабе абручоў, зрэзванні тарцовага краю бочак і інш. Выкарыстоўваўся таксама для пярвічнай апрацоўкі дрэва, пры вырабе гонты і інш.

**СТРУКТУРАЛІ́ЗМ** (ад лац. structura будова, размяшчэнне, парадак) у э т н а г р а ф і і, кірунак сучаснай буржуазнай этнаграфіі. Вывучае пераважна этнічныя супольнасці, што адсталі ў гістарычным развіцці, гал. чынам іх сацыяльную і духоўную культуру. С. надае найбольшае значэнне выяўленню структуры архаічных традыцый, лічыць гэта галоўнай задачай этнагр. навукі, асноўную ўвагу аддае не асобным элементам структуры, а адносінам паміж імі. У працах некаторых даследчыкаў гэтага кірунку (К. Леві-Строс і інш.) шырока выкарыстоўваецца перанесеная імі ў этнаграфію методыка структурнай лінгвістыкі. Сацыяльная арганізацыя і міфалогія разглядаюцца імі як знакавая сістэма. Імкненне С. вывучыць структуру культурных з'яў, прымяненне некаторых канкрэтных прыёмаў яе даследавання (напр., выяўленне *бінарных апазіцый*, выкарыстанне матэматычных метадаў) мае пазітыўнае значэнне, але абсалютызацыя ментальных (ад лац. mens уяўленне, свядомасць, розум) структур, якія ён памылкова лічыць першаасновай культуры, што нібыта вызначаюць дзейнасць асобы і грамадства, рэгулююць іх жыццё, сведчыць пра абмежаванасць гэтага кірунку, яго ідэалістычную аснову. С. перабольшвае значэнне фармальных прыкмет культурных з'яў, у значнай ступені ігнаруе канкрэтны змест апошніх. *М. Ф. Піліпенка.*

**СТРЫ́ЖКІ**, старажытны абрад першага пастрыжэння дзіцяці, які сімвалізаваў яго пераход у новы ўзроставы перыяд. У 19 — пач. 20 ст. С. выконвалі бацькі або *кумы*, калі дзіцяці спаўняўся год. Да года стрыгчы забаранялася, бо, згодна з нар. уяўленнямі, дзіця будзе жыць у беднасці і ў яго будзе «кароткая памяць», рэдкія валасы і г. д. У час С. дзіця трымалі на каленях або саджалі на дзяжу, стул, пакрытыя кажухом. Састрыгалі спачатку макушку, а затым астатнія валасы. Састрыжаныя валасы забаранялася кідаць абы-дзе, іх спальвалі ў печы, кідалі на ваду, хавалі ў страху, сцяну і г. д., каб іх не маглі падабраць птушкі або мышы (лічылася, што інакш у дзіцяці будзе балець галава і вылезуць валасы). У наш час дзяцей таксама стрыгуць звычайна пасля года, аднак назва абраду амаль паўсюдна страчана. *Т. І. Кухаронак.*

**СТРЫХО́ЎКА**, прылада для выраўноўвання саломы пры крыцці страхі. Лакальныя назвы страхавец, шчотка, грэбень. Складалася з тоўстай дошчачкі памерам 20×20 см з выразанымі на ніжняй паверхні падоўжнымі пазамі. Зверху мацавалася ручка. С. «падбівалі» ці раўнялі камлі саломы пад пэўным нахілам. Першы (ніжні) пласт кулявой саломы раўнялі пад прамым вуглом. Кожны пук саломы старанна прывязвалі да лат вяроўкай або галінамі лазы, вярбы, бярозы. *Л. І. Мінько.*

**СТРЭ́ЧНЫЯ КУМЫ́**, выпадковыя людзі, якіх бралі за *кумоў* у сям'ю, дзе часта паміралі дзеці.

**СТУ́ДНЯ**, к а л о д з е ж, гідратэхнічнае збудаванне накшталт квадратнай або круглай у плане шахты для здабывання грунтавых вод. Мае наземны засцерагальны зруб (вышынёю да 1,5 м) і пад'ёмнае прыстасаванне. Вядомы С. драўляныя зрубныя (часам з дубовых плах) і цэментавыя, з *жураўлём*, *калаўротам* і без пад'ёмнага прыстасавання (у раёнах з высокім узроўнем грунтавых вод). На З Палесся для засцярогі сцен ад апаўзання ў шахту апускалі кадаўб — выдзеўбаную з дубовага ствала трубу дыяметрам 75—80 см. З 1920-х г. наступова на змену зрубнай С.

з жураўлём прыйшла больш даўгавечная С. з цэментавых труб з калаўротам. Яна часта накрыта двухсхільнай стрэшкай. Колькасць С. залежыць ад памераў вёскі і яе планіроўкі. У лінейных, выцягнутых уздоўж дарог вёсках іх было больш, чым у скучаных паселішчах. Глыбіня залягання грунтавых вод таксама ўплывала на колькасць С. У наш час асобныя сем'і маюць індывідуальныя С., а ў многіх новых паселішчах будуюць водаправоды. *У. С. Гуркоў.*

**СТУ́ПА,** традыцыйная прылада для апрацоўкі зерня на крупы. Выкарыстоўвалася і для іншых мэт. На Беларусі былі пашыраны ручная і нажная С. Ручную С. рабілі з кавалка тоўстага ствала дуба, граба, часам таполі або ліпы вышынёю 110—120 см. У ствале выдзёўбвалі ці выпальвалі конусападобную выемку глыбінёй 40—50 см і дыяметрам у верхняй частцы 35—40 см. У цэнтр. раёнах (Слуцкі, Любанскі, Салігорскі) выдзёўбвалі ніжнюю вонкавую частку С. і яна стаяла быццам бы на ножках. На Віцебшчыне сустракаліся С., у якіх ніжняя частка была васьмікантовай, а верхняя — паўкруглай. Зерне ў С. таўклі таўкачом — тоўстай выструганай палкай з паўкруглымі канцамі, даўжыня якой дасягала 90—110 см; для зручнасці трымання ў сярэдняй яго частцы рабілі выемку. Часта таўклі ў два таўкачы. Зерне перад апрацоўкай сушылі, а ў працэсе таўчэння для таго, каб лепш аддзялялася шалупінне, крыху змочвалі вадой. На Палессі, часткова на Міншчыне бытавалі нажныя С. Даўней яны былі пашыраны на большай тэрыторыі (пры раскопках Мінскага замчышча 11—12 ст. знойдзены 2 нажныя і 1 ручная С.). Вышыня нажной С. 50—60 см. У чатырохвугольным або круглым цурбане (калодзе) выдзёўбвалі конусападобную ці круглую адтуліну для зерня. Калоду нярэдка ўкопвалі ў зямлю. Таўкач мацавалі на канцы доўгага бруса (рычага), замацаванага рухома на восі ці на падстаўцы. Рычаг прыводзіўся ў рух нагою. Стоўчаныя крупы прасейвалі на рэшаце ці ачышчалі пры дапамозе *апалушак.* Бытавалі С. да 1950-х г. *Л. І. Мінько.*

**СТУ́ПА,** самалоўнае прыстасаванне для лоўлі парнакапытных, пераважна ласёў. Канструкцыйна ўяўляе сабой адпілаваны ад ствала дрэва круглы цурбан з выдзеўбанай у тарцы адтулінай, якая па форме нагадвае перакуленую ўверх дном пляшку. Ставілі С. на звярыных пераходах, пераважна балоцістых. Зашчаміўшы С. нагу, жывёла пры спробе вызваліцца разбівала твань і загразала ў балоце.

**СТУ́ПІЦА,** самалоўнае прыстасаванне для лоўлі чатырохногіх звяроў. Прататып сучасных *залезаў.* Упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах 13 ст. Механізм дзеяння заснаваны на выкарыстанні спружыністасці ляшчынавых пруткоў. Як толькі звер дакранаўся да лучынкі, звязанай з клінападобным стопарным язычком, што ўтрымліваў С. ў расчыненым становішчы, сагнутыя паўдугой пруткі распрамляліся і зашчамлялі лапу звера дзвюма рухомымі клёпкамі. Усе драўляныя дэталі С. мацаваліся пры дапамозе двух шпунтоў і чатырох калкоў у скразной адтуліне, выдзеўбанай у бярозавым плашчаку (памерам 75×22 см). Выйшла С. з шырокага ўжытку ў канцы 18 — пач. 19 ст. *С. Ф. Цярохін.*

**«СТУ́ПКА»,** традыцыйны танец. Музычны памер 2/4. Тэмп хуткі. Выканаўцы стаяць па крузе, трымаючы рукі на стане. Асноўныя рухі — прыстаўныя крокі з падскокам па крузе (тыпу «Галопа»), з акцэнтам першай долі такта ў падлогу і з невялікім пераскокам з нагі на нагу. Перыядычна выконваюцца трайныя прытопы на месцы — «прытупванці».

У Жлобінскім р-не Гомельскай вобл. «С.» бытуе ў выглядзе гульні. Два выканаўцы становяцца адзін да аднаго спінай і пераплятаюць сагнутыя ў локцях рукі. У такім стане яны па чарзе нахіляюцца ўперад, падымаючы тым самым другога выканаўца ўверх. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК таксама ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобласці. *А. Л. Варламаў.*

**СТЭ́ЛЬМАХІ,** майстры па вырабу колаў і калёсаў; тое, што і *калёснікі.*

**СУБО́РНАЯ СУБО́ТА,** дзявочнік, абрад развітання маладой са сваімі сяброўкамі, апошні вечар яе дзявоцтва напярэдадні *вяселля.* Называлі яшчэ зборная субота, паненскі вечар, вяночкі, дзявоцкія запоіны, дзявоцкія заручыны, дзявічкі. У С. с. ўдзельнічалі толькі дзяўчаты, часам прысутнічалі маладзіцы ў якасці глядачак. Хлопцы прыходзілі пад канец вечара. У маладога гэты абрад называўся хлапечнікам, быў больш кароткі, менш урачысты і адбываўся не паўсюдна; на ім прысутнічалі сябры і сёстры маладога. Асноўныя рытуалы С. с.: пляценне вянка, прыгатаванне кветак, упрыгожванне *шаблі,* віццё (завіванне) *ёлачкі,* заплятанне *касы* нявесты і яе красаванне, падрыхтоўка харугвы, пірог, абмен падарункамі («купаванне капулі»). С. с. шырока бытавала на Пн Беларусі, у скарочаным выглядзе — на Палессі, дзе віла вянок маці маладой у нядзелю раніцай, і амаль не выконваўся на Магілёўшчыне.

Звычайна маладой рабілі два вянкі — вялікі і маленькі. Вялікі складаўся з абручыка, абшытага стужкамі, якія спускаліся на плечы, і — паверх яго — уласна вянка з розных кветак, зеляніны, пер'я, разнаколернай паперы, шматкоў матэрыялу. Вялікі вянок надзявалі на галаву маладой. Маленькі рабілі з руты, вілі на пярсцёнку і прышпільвалі маладой на макушцы, калі яна сядзела на *пасадзе,* а пасля *завівання* — на намітку. Пазней вялікі вянок купляла сама маладая або ёй прывозіў малады ці перасылаў у суботу позна ўвечары праз свайго дружка. У некаторых мясцовасцях на З Беларусі маладой прывозіў сват маленькі вянок на елачцы. С. с. пачыналася з запрашэння маладой сваіх сябровак. Яны адпраўляліся ў яе садок з рэшатам або з векам ад дзяжы па кветкі. Калі якіх-небудзь кветак у садку маладой не было, яна з лустачкай хлеба разам з дзяўчатамі ішла да суседзяў, дзе ёй давалі кветкі, калі яна была цнатлівай. Віццё вянка праходзіла з мноствам рытуалаў, павер'яў і заклінанняў. У народзе лічылася, што ад якасці вянка (калі ён круглы, крута звіты, тугі, прыгожы) залежала будучае жыццё нявесты. На кожным этапе віцця ў маці прасілі благаслаўлення. Вялікі вянок пачынала і канчала віць старшая дружка. Маленькі вілі родныя сёстры маладой, а калі іх не было, бліжэйшыя сваячкі або сяброўкі. Для віцця прыносілі па



Ступы.




Ступа: 1 — агульны выгляд; 2 — разрэз.




Ступіца: 1 — агульны выгляд; 2 — разрэз.

талерцы пярсцёнак, ніткі і 8—10 іголак. Калі вянок быў звіты, маладая падыходзіла да стала, кланялася дзяўчатам і дзякавала. Хто-небудзь з блізкіх яе (брат, бацька або сват) павінен быў выкупіць вянкі. Дзяўчаты клалі іх на талерку з насыпаным у яе жытам і засланую белай хусткай і перадавалі маці або каціле па стале, а яна, стоячы на другім канцы, прымала іх у падол ці фартух. Дзяўчаты, працягнуўшы нітку праз усе іголкі, беглі на рэчку пускаць іголкі, каб, згодна з павер'ем, хутчэй выйсці замуж, а хлопцы іх затрымлівалі.

Сяброўкі маладой рыхтавалі для сваёй і дружыны маладога адмысловыя кветкі (сучкі, букецікі), якія прыколвалі мужчынам да шапак (пазней — на грудзі), замужнім жанчынам — да намітак, маладым дзяўчатам — на грудзі, а таксама для ўпрыгожвання шаблі і елачкі. На Пн Беларусі ў больш стараж. часы кветкі рабілі з чырвоных каснічкоў, пазней — са стужак, на Пд — з чырвоных каснічкоў і зеляніны (барвенку, руты і інш.), на ПнЗ — з зеляніны (руты і мірта) і чырвоных (пазней белых) каснічкоў. Для жаніха кветку рабілі часам у выглядзе вяночка або стужкі з коласам ці з галінкай зеляніны, якую прышпільвалі яму да шапкі, пазней — да кашулі. Звычайна кветкі рабілі і прышпільвалі або дасылалі ў момант абмену падарункамі ў С. с. вечарам, часцей у нядзелю раніцай, калі дружына маладога прыязджала да маладой, каб ехаць у царкву.

У абрадзе віцця вянка захаваліся рэшткі рытуалаў эпохі матрыярхату, калі равесніцы аднаго роду і аднаго ўзросту складалі асобныя арганізацыі і пераход іх членаў з адной узроставай групы ў другую суправаджаўся пэўнымі рытуаламі. Даўней дзяўчына, выходзячы замуж, павінна была пакінуць вянок, сімвал свайго дзявоцтва, і выкуп членам сваёй узроставай групы («дзявоцкай грамадзе») за выхад з яе складу. Калі сэнс гэтага абраду пачаў сцірацца, вянок успрымаўся як дар сяброўкамаднагодкам, што даволі выразна захавалася ў бел. вясельных песнях. У наш час маладая не перадае вянок сяброўкам, а дазваляе толькі памераць. Такія ж рэшткі стараж. абраду выкупу маладой з дзявоцкай грамады ёсць і ў рытуале развітальнага частавання яе сяброваk у суботу напярэдадні вяселля. Сам пачастунак, які называецца дзядзькавым (сватнім) пірагом (радзей — мёдам), звычайна рабіў ад імя маладога яго дзядзька (брат маці, які адыгрываў гал. ролю ў сям'і эпохі матрыярхату) часам у чацвер перад вяселлем (Бягомльскі, Вілейскі, Докшыцкі, Лагойскі, Мінскі, Мядзельскі і Пастаўскі раёны).

Акрамя пірага, малады разам з дзядзькам або маці ў суботу або ў нядзелю раніцай прывозіў маладой вянок, чаравікі і інш. падарункі. Узамен маладая дарыла яму кашулю (часам і споднікі) уласнага вырабу, якую ён захоўваў усё жыццё і якую надзявалі яму толькі пасля смерці. Існавяў цырыманіял перадачы кашулі маладому. Маладая падносіла яе да стала, дзяўчаты скручвалі ў трубку, абвязвалі стракатым ваўняным поясам і перадавалі маладому праз маршалка або маладая пасылала яе маладому праз спецыяльных пасланцоў, даючы наказ перадаць як мага хутчэй і адразу вяртацца назад. Перадача кашулі і споднікаў адбывалася з торгам і выкупам, які суправаджаўся рознымі жартоўнымі дзеяннямі. Так, нярэдка споднікі «ўпрыгожвалі» каляровымі стужкамі, драўлянымі гузікамі, а калашыны сшывалі ніткамі. У некаторых мясцовасцях ПнЗ Беларусі маладая рыхтавала маладому яшчэ шкарпэткі і рукавіцы. У час торгу дружкі стараліся перадаць свату замест новых рукавіц і шкарпэтак старыя або падраныя. Пасля доўгага торгу і жартаў маршалак атрымліваў жаданыя рэчы, плацячы за іх найчасцей цукеркамі. Здаралася, што выкупленыя рэчы дружкі маладой выкрадалі, і торг пачынаўся зноў. Абрад С. с. з'яўляўся заканчэннем падрыхтоўчага перыяду і пачаткам вяселля. *Л. А. Малаш.*

**«СУБО́ТА»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_2$. Тэмп умераны. Выконваецца неабмежаванай колькасцю пар. Асноўны малюнак — круг. Выканаўцы парамі стаяць на лініі танца тварам адзін да аднаго. Партнёр правай рукой трымае левую руку партнёркі, свабодныя рукі — на таліі. Танец надзвычай разнастайны па сваіх лакальных варыянтах. Найбольш тыповы варыянт, калі простыя крокі чаргуюцца з паваротамі партнёркі пад рукой партнёра і вярчэннем у полька-вальсе. Простыя крокі часта змяняюцца пераменнымі або прыстаўнымі. Такі варыянт пашыраны ў Магілёўскай і Віцебскай абл. У некаторых рэгіёнах Віцебшчыны замест крокаў выконваюцца прысяданні. Некалькі па-іншаму танцуюць «С.» ў Гомельскай вобл. У лексіку танца тут арганічна ўплецены падскокі і дробныя крокі з прыступкамі. У г. п. Лельчыцы Гомельскай вобл. бытуе своеасаблівы варыянт «С.». Танец выконваюць тры пары, якія становяцца ў калону адна за адной. На першае правядзенне мелодыі танцоры выконваюць простыя крокі; на другое — паварочваюцца ў парах твар у твар, злучаюць рукі і, узняўшы іх уверх, утвараюць у сярэдзіне праход, праз які праходзяць усе пары і становяцца адна за другой, і танец пачынаецца спачатку. Арыгінальны варыянт, які запісаны ў в. Харошкі Магілёўскай вобл. У ім кадрыльныя элементы (пераходы ўдзельнікамі з адной лініі ў другую па дыяганалях) спалучаюцца са складанымі разваротамі і «ныраннем» у «вароты» трох удзельніц, што трымаюцца накрыж за рукі. Звычайна выкананне танца суправаджаецца прыпеўкай: «Брасай, Ванька, водку піць, // Пойдзем на работу, // Будзеш грошы палучаць /// Каждую суботу». *С. В. Гуткоўская.*

**СУ́ДЖАНАЯ,** дзяўчына або жанчына, якая мае жаніха; будучая жонка жаніха; дзяўчына або жанчына, якая выходзіць замуж; маладая; тое, што і *нявеста*.

**СУ́ДЖАНЫ,** мужчына, які мае нявесту; будучы муж нявесты; мужчына, які ўступае ў шлюб; малады; тое, што і *жаніх*.

**СУДЗІ́НЫ,** с у д о в ы, група заходнябалцкіх плямён, якія ў 1 — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. насялялі тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі р. Нараў; тое, што і *ятвягі*.

**СУ́ДНА,** збудаванне для перавозкі людзей і грузаў па водных шляхах. Драўляныя С. — традыцыйны на Беларусі сродак *рачнога транспарту*. Найбольш стараж. тыпы С. — *ладдзя, човен, струг*. Абагульняльны тэрмін «С.» ўзнік паводле сведчанняў летапісаў у 14 ст. Спачатку С. выдзёўбвалі з аднаго ствала вялікага дрэва. Пазней для павелічэння ўстойлівасці і аб'ёму да яго пачалі прымацоўваць (нашываць, набіваць) дашчаныя барты. З пашырэннем грузавых перавозак выкарыстоўваліся пераважна дашчаныя С., вядомыя славянам з 12 ст. Асноўныя тыпы С. на Беларусі: струг, *віціна, шкудка, байдак, лайба, барка, берліна, лыжва*. Некаторымі з іх (берлінай, лайбай, баркай) карысталіся да пач. 20 ст. С. мелі рэгіянальнае бытаванне, адрозніваліся канструкцыяй, памерамі, аснасткай. Былі хадавыя (хадзілі па рэках уніз і ўверх некалькі гадоў) і сплаўныя (будаваліся на адзін рэйс уніз па цячэнню, напр., барка). Прыводзіліся ў рух з дапамогай вёслаў, шастоў, парусаў, а супраць цячэння — людской цягай (*лінай*, завозам *якара*). Для кіравання С. на карме і носе мацаваліся рулявыя вёслы — доўгія бярвёны з лопасцю. Невялікія С. для рыбнай лоўлі, палявання, гонкі плытоў, мясцовых перавозак грузаў і людзей называлі *лодкамі* (човен, *чайка, камяга, дуб*, шугалея). Спецыфічнае грузапасажырскае С. — *паром* (перавоз) — вядомы з ранняга сярэднявечча. Першае С. з паравым рухавіком (параход) пачало курсіраваць па Дняпры (ад Кіева да Лоева) і Прыпяці (да Пінска) у 1823. У 2-й пал. 19 ст. грузавыя і грузапасажырскія параходы хадзілі па ўсіх буйных рэках Беларусі; у 1856 па Зах. Дзвіне курсіравала 12 параходаў, па Нёмане і Віліі — 7, па Дняпры і яго прытоках — 8. З канца 19 ст. выкарыстоўваецца буксірная драўляная, пазней металічная грузавая платформа — *баржа*. У 1900 у бас. Дняпра хадзілі 60 грузапасажырскіх і 8 буксірных параходаў. У наш час з традыцыйных С. выкарыстоўваюцца баржа, паром, лодкі; курсіруюць пасажырскія цеплаходы на падводных крылах. *Н. І. Буракоўская.*

**СУКАВА́ТКА,** старажытная цяглавая прылада для апрацоўкі глебы; най-

больш архаічны тып *бараны*; тое, што і *вершаліна*.

**СУКА́ЛА,** прылада для намотвання (насуквання) нітак на *цэўкі*. Уяўляе сабой 2 стойкі з умацаваным паміж імі гладка адшліфаваным валікам з махавым колам, размешчаным бліжэй да аднаго канца валіка. З процілеглага канца ў валік устаўляўся металічны стрыжань, на які надзявалася цэўка (вярчэнне дасягалася хуткімі рытмічнымі ўдарамі рукі па валіку). Знізу стойкі змацоўваліся драўлянай плахай або збіваліся дошкамі з бакоў і знізу ў выглядзе скрынкі для цэвак. Насуквалі цэўкі з клубка ці з *матавіла*.

*Г. М. Курыловіч.*

**СУКНАВА́ЛЬНЯ,** вытворчая пабудова для валення сукна, лямцу, валёнак і інш.; тое, што і *валюшня*.

**СУКНАРО́БСТВА,** хатняе рамяство па вырабу сукна, тканіны з ваўняных нітак. З самаробнага сукна шылі верхняе мужчынскае і жаночае адзенне (світы, сярмягі, бравэркі і інш.), штаны-суконнікі, спадніцы-андаракі, рабілі цёплыя анучы-суконкі, пашыты абутак — буркі і інш. Сыравінай для С. служыла *воўна*. Стрыглі авечак вясной і ўвосень *нажніцамі спружыннымі*. Найбольш якаснае сукно атрымлівалі з воўны старых авечак, настрыжанай увосень. Воўну сартавалі, мылі, сушылі, потым скублі рукамі, часалі на грэбенях ці на ваўначосках, пралі. З ваўняных нітак на ткацкім стане (кроснах) ткалі сукно і паўсукно (з ільняной асновай), пераважна ў чатыры ніты. Колер сукна залежаў ад колеру воўны (белы, шэры, чорны), нярэдка белае сукно фарбавалі. Белы колер паводле традыцыі пераважаў на Магілёўшчыне, ва ўсх. паветах Віцебскай і паўд. паветах Мінскай губ. Шэры быў найбольш пашыраны на ПнЗ Беларусі. Існавалі розныя спосабы фарбавання сукна: раслліннымі, а ў пач. 20 ст. — хімічнымі фарбавальнікамі. Напр., на ПдЗ для фарбавання тканін у карычневы колер сяляне ўжывалі торф. Яго ў чыгуне залівалі вадой і ставілі ў гарачую печ, потым у гэту масу клалі сукно і трымалі суткі. У Мінскай губ. ў некаторых мясцінах сукно клалі ў настой іржавага жалеза, каб атрымаць чорны колер. Вытканае сукно абавязкова валялі (валілі, білі, мялі; гл. *Валюшнае рамяство*) для змякчэння і надання большай шчыльнасці: тапталі босымі нагамі ў карыце, начоўках, цэбры або на падлозе, таўклі ў ступе, валілі на рабрыстай паверхні ў ручных валюшнях. На Палессі працэс таптання сукна нагамі насіў назву «мяць у ногі», «круціць у ногі». Працу гэту звычайна выконвалі калектыўна, талакой, увосень і зімой. На Піншчыне (в. Стараселле і інш.) С. ў канцы 19 — пач. 20 ст. набыло форму вячорак з песнямі, прымаўкамі («Прыйшоў салагуб, каб было сукно як луб»). У 2-й пал. 19 ст. пачаў пашырацца механічны спосаб валення на валюшнях (фалюшах) з дапамогай вадзянога кола або з паравым прывадам. У 1933 у 20 раёнах Усх. Палесся дзейнічала 115 калгасных ваўначосак і ў 10 раёнах — 14 калгасных сукнавальняў. Паравая сукнавальня ў Брагіне з 12 рабочымі апрацоўвала да 8 тыс. м сукна ў год. З сярэдзіны 20 ст. саматужнае С. на Беларусі не існуе, патрэбы жыхароў забяспечваюцца фабрычнай вытворчасцю. У наш час яно бытуе як мастацкі промысел, пашыраны хатні выраб дываноў, дарожак, посцілак.

*Н. І. Буракоўская.*



Сукала.





Сурвэткі. Брэстчына (злева), Міншчына. Сярэдзіна 20 ст.

**СУРВЭ́ТКА,** узорысты тканы, вязаны, плецены, гафтаваны, вышыты выраб з лёну, бавоўны, шоўку для ўпрыгожання жылога інтэр'ера. Пашырылася ў 20 ст. Форма С. разнастайная: прамавугольнік, квадрат, круг, многавугольнік, эліпс і інш. Традыцыйныя белыя, аздобленыя пераважна чырвонай вышыўкай; у вязаных найчасцей утвараецца геаметрычны арнамент.

**СУСТРЭ́ЧЫ,** частка вясельных абрадаў у час вітання маладога ў доме маладой (калі ён прыязджаў да яе, каб ехаць да шлюбу, і другі раз — каб забраць яе да сябе), маладых у доме маладой пасля шлюбу і маладых у доме маладога, калі ён прывозіў маладую да сябе. Гэты абрад меў значныя рэгіянальныя асаблівасці. Найбольш багаты варыянтамі рытуалаў і захаванасцю стараж. элементаў абрад С. маладога ў доме маладой. Калі *вясельны поезд* маладога пад'язджаў да хаты, вароты ў двор былі зачынены, каля іх стаялі ўзброеныя сякерамі, піламі і косамі «вартавыя», якія стараліся шумам напалохаць дружыну маладога. Сваты жаніха стукалі ў вароты, прасілі іх адчыніць, а сваты маладой адмаўляліся і патрабавалі выкуп (варотнага, паваротнага). Сваты спрабавалі самі адчыніць вароты або пералезці праз плот. Нарэшце вароты «выкуплялі» («давалі варотнага» часцей гарэлкай і пірагом). Калі сваты ўрываліся ў двор сілаю, «вартавыя» беглі ў хату, займалі месцы за сталом і ўступалі іх толькі пасля атрымання выкупу. У Слонімскім пав. хлопцы вывешвалі каля варот на доўгім шасце чырвоную хустку, побач з варотамі ставілі саламяныя чучалы, што было сведчаннем — у гэтым доме *вяселле*. Тут жа стаяў засланы абрусам стол з хлебам і соллю. Хросная маці маладога, зайшоўшы ў двор маладой, перадавала дружку або старшаму свату каравай-паўмесячык з прывязанымі да яго двума абаранкамі. На двары каля варот, дзе стаяў стол, сустракаліся старшыя сваты абодвух бакоў з *караваямі* ў руках: у свата маладога — у выглядзе паўмесяца, у свата маладой — круглы. Сваты віталіся і падымалі свае караваі («раўнавалі караваі», «падвышалі караваі»). Лічылася, чый каравай падымалі вышэй, той будзе мець верх у сямейным жыцці. У некаторых мясцовасцях дружкі маладых падымалі караваі перад уваходам у сенцы, робячы т. зв. браму, праз якую ўваходзілі ў хату сваты маладога, а яго сваццця ці маці маладой злеплівалі («злучалі») свечкі маладых, што сімвалізавала яднанне родаў і саміх маладых. Нярэдка сваты злівалі гарэлку з дзвюх бутэлек (маладога і маладой), якой потым частавалі прысутных. Пакуль сваты выконвалі рытуалы з караваямі і гарэлкай, дружкі маладога спрабавалі ўварвацца ў хату, куды іх не пускалі,

патрабуючы выкуп (прайсці ў хату без выкупу азначала паказаць сілу і верх маладога над маладою). У гэты час маладая была ў каморы або ў суседзяў, дзе не прыбіралі сяброўкі.

У некаторых мясцовасцях, прыехаўшы да маладой, малады з дружынай заставаўся на возе, а сват з пугай, насунуўшы шапку на вочы, заходзіў у хату не павітаўшыся і паводзіў сябе, як заваёўнік, спрабаваў выгнаць дружак і захапіць маладую. Калі гэта не ўдавалася, ён перапіваў дружак, за маладую прапаноўваў яе брату і яе маці выкуп (боты або грошы). Калі «гандаль» адбыўся, маці абувала выкупныя боты і ў вывернутым кажуху выходзіла з хаты, трымаючы ў руках пасыпанае жытам века, на якім гарэла свечка, ляжаў пірог, на ім — пояс, побач — хустка і кубак з вадой. Часам у другой руцэ яна несла вядро з аўсом і вадой, паіла каня маладога, за што малады кідаў ёй у вядро грошы. Каля воза маладога ставілі хлебную дзяжу, накрытую ручніком або вывернутым кажухом. Падышоўшы да воза, маці брала будучага зяця за руку, і ён саскокваў на дзяжу. Калі малады прыязджаў вярхом на кані, што было характэрна для больш ранніх часоў, ён павінен быў саскочыць на дзяжу з каня. Павітаўшыся з цешчай, ён прымаў ад яе поўны кубак вады (пазней — піва або гарэлкі) і перадаваў свату, бо малады павінен быў ехаць у царкву нашча. Цешча падпяразвала маладога поясам, пад які затыкала хустку, і са свечкай станавілася на парозе хаты, падняўшы высока века дзяжы або талерку з хлебам і соллю, пакуль пад ім не пройдуць найперш сват з караваем, малады, дружок, свацця і музыка, якія віталі дружыну маладой «пахвалёным» і садзіліся на лаву пры стале.

У Ігуменскім пав. малады з дружынай чакаў на двары, пакуль прыбяруць маладую, пасадзяць яе на *пасад* і блаславяць. Пасля благаславення брат маладой вёў яе за стол і, тройчы перакружыўшы, садзіў насупраць печы на лаву, засланую кажухом. Дружко маладога ў вывернутым кажуху, перавязаны праз плячо пугай, уваходзіў у хату, клаў адзін пірог на стоўб каля печы, другі — на стол насупраць печы для дзяўчат і тры грошы для іх. Пачынаўся торг за маладую і месца каля яе. Дружко дабаўляў, потым адштурхоўваў дзяўчат ад маладой і тройчы кружыў яе вакол сябе. Дружкі маладой абвязвалі дружкоў маладога ручнікамі і прышывалі да іх шапак кветкі. Затым усе частаваліся. Астатнія госці чакалі на двары дружкоў, якія, выкупіўшы маладую і закусіўшы, ускоквалі на лаву, білі тройчы пугай па сцяне (замацоўвалі месца за сталом для сваёй дружыны). Сваты маладой выносілі на двор стол і ставілі яго перад парогам. Маці маладой у вывернутым кажуху з хлебам і соллю выходзіла насустрач маладому, вітала яго і падавала поўны кубак, які ён выліваў праз плячо. Маці паўтарала словы вітання і падавала другі кубак, які ён таксама выліваў. Толькі за трэцім разам, прыгубіўшы, малады кідаў у кубак 10—20 грошаў і аддаваў зноў маці, якая выпівала, а грошы забірала сабе. Сваты раўнавалі караваі і ішлі ў хату.

На ПнУ Беларусі дружына чакала на панадворку або за варотамі, пакуль дружко маладога з памочнікам выкуплялі ў баярак маладую і абкрывалі яе прывезенымі з сабой шубай і хусткай. Затым дружко з памочнікам выстройвалі дружыну на чале з маладым у рад і чакалі С. з цешчай, якая ў вывернутым кажуху з кубкам вады і аўсом выходзіла ў сенцы і спынялася перад парогам. Па другі бок парога стаяў малады. Павітаўшыся з паклонам, ён браў у цешчы кубак з вадой і аўсом, кідаў яго праз галаву і стараўся схапіць цешчу за руку і перацягнуць на свой бок. Калі гэта ўдавалася, ён са сваёй дружынай і музыкам ішоў услед за цешчай у хату. У адваротным выпадку С. паўтаралася. Увайшоўшы ў хату, дружко вёў маладога да маладой і, тройчы іх абкружыўшы, садзіў за кутні стол на кажух. У іншых мясцовасцях цешча сустракала зяця на парозе. Калі той спрабаваў схапіць яе за руку, сыпала на яго жменю аўса, бегала вакол яго. Калі за тры спробы яму не ўдавалася схапіць цешчу, малады павінен быў кінуць ёй у вядро грошы ў якасці выкупу. Пасля гэтага да маладога выводзілі маладую. Яны сходзіліся («ядналіся»), а цешча іх благаслаўляла.

У Свянцянскім пав., калі дружына прыязджала да маладой, сват (маршалак) маладога ў шапцы і з палкай урываўся ў хату і, ні з кім не вітаючыся, тройчы біў ёю па жэрдцы над печчу. Сваццi маладой стараліся выхапіць у яго палку — сімвал улады. Калі гэта ўдавалася, сват павінен быў выкупіць палку. Маці маладой павязвала свата ручніком праз левае плячо, ён падаваў ёй бутэльку салодкай гарэлкі, ішоў да стала, дзе яго частавалі. Закусіўшы, ён аддаваў «пахвалёны» (вітанне), выходзіў да маладога і яго дружыны, якія чакалі яго каля варот. Як толькі сват выходзіў за вароты, хлопцы замыкалі іх і адчынялі толькі пасля атрымання выкупу. Пасля выкупу ў двор уязджалі сват з музыкамі, малады з баярынам, за імі — уся дружына. На ганку іх сустракалі бацькі маладой. У хаце дружкі маладога выкуплялі ў дружак месца за сталом для сябе і маладога. У Мінскай губ. ў хату заходзілі толькі дружко і падружы, якія віталіся з усімі прысутнымі і частавалі іх. Частуючы гарэлкай маладую, у чарку ёй клалі срэбраную манету, а ў яе бралі васковую свечку хатняга вырабу. Маладая падыходзіла да бацькоў, потым да іншых, плакала, цалавалася з імі і прасіла благаславення. Маці маладой выходзіла з хаты, падпяразвала маладога поясам, падаткнуўшы пад яго вышыты ручнік. Ён дзякаваў і нізка кланяўся. У гэты час з хаты выносілі стол, накрыты абрусам, на яго клалі караваі маладых, тройчы абнёсшы іх вакол стала. Бацька частаваў спачатку маладога, маладую, а потым усіх прысутных. У Мсціслаўскім пав. дружко, пакінуўшы маладога на вуліцы, стукаў у акно і прасіўся пераначаваць або пагрэцца. Яму адмаўлялі: «Няма месца, бо гульня ідзе». Урэшце вароты адчынялі, малады з дружынай уваходзіў у хату і спыняўся каля парога. Дружко выходзіў на сярэдзіну хаты і звяртаўся да бацькі і маладой: «Пусціў ты нас у хату, дык пусці дзенебудзь прытуліцца». Бацька адказваў: «Калі грошы ёсць, адкупі сабе месца». Дружко даставаў з-за пазухі бутэльку з гарэлкай, частаваў усіх прысутных, адкупляў месца і маладых злучалі («зводзілі да купы»). Пазней просьба пусціць у хату маладой набыла характар жартоўнай гульні.

Больш спакойна, з меншай колькасцю рытуалаў адбывалася С. маладой у доме маладога. Пачуўшы гукі вясельнага поезда, бацькі маладога, як правіла, адразу адчынялі вароты, падпальвалі перад імі куль саломы на зямлі або ў бочцы без дна. У адных мясцовасцях праз агонь павінен быў праехаць толькі воз з маладымі, у другіх — усё вяселле. У варотах маладых вітала свякроў са снапом саломы, на які нявестка вешала палатно. У некаторых мясцовасцях перад прыездам маладых у варотах ставілі чучала, набітае саломай («дзеда»), і маладая вешала на яго пояс або накрывала палатном. Пад'язджаючы да варот, яна кідала наперад пірог, два абаранкі назад і два наперад, часам ужо на двары кідала дзецям пяць абаранкаў, перавязаных чырвонай стужкай. У Мазырскім пав. маладая ў адзін бок кідала пірог, у другі — пояс ці грошы. Рабілася гэта дзеля таго, каб жыццё маладых было багатым. Часам вароты ў двор маладога замыкалі, а перад імі ставілі куль саломы. Дружка злазіла з воза і абвязвала куль поясам з абаранкамі на ім, а маладая кідала на яго боханчык хлеба. Хросны бацька маладой частаваў вартавых гарэлкай, і яны адчынялі вароты. Малады звычайна пакідаў маладую на возе і ішоў па маці, якая ў вывернутым кажуху з хлебам-соллю падыходзіла да воза і тройчы частавала маладую чаркай гарэлкі, якую яна вылівала цераз галаву і крыж-накрыж. Свякроў расцілала свой фартух на дзяжы каля воза або на зямлі, маладая ступала на яго, а свякроў тройчы кружыла яе. Было і так: пад'ехаўшы да дома, вясельны поезд спыняўся перад дзвярыма і чакаў маці, якая выходзіла з хаты ў вывернутым кажуху, часам і ў шапцы, з векам ад дзяжы. Маладая нізка кланялася, і, схіліўшыся, стаяла ў пакорлівай позе, пакуль маці, крануўшы векам яе галаву, здымала з яе палатно, якое забірала сабе ў якасці падарунка. Затым маладая клала на века пірог, загорнуты ў палатно. Малады (або яго маці), узяўшы яе за руку, уводзіў па разасланым да самага стала палатне ў хату, дзе маладая кідала на печ або на прыпек абкручаны поясам піражок і сыпала ва ўсе куты жыта, часам жыта

перамешанае з манетамі і цукеркамі. Затым маладая накрывала стол белым абрусам, клала на яго малы каравайчык, лыжку, ставіла талерку, кубак, вешала на цвік кужэльны ручнік, якія прывозіла з сабой. Свякроў паказвала маладой яе месца на покуці. Але яна не садзілася, пакуль бацька маладога не зойме свайго месца за сталом. Свёкар частаваў маладую мёдам, прычым двойчы толькі падносіў да яе губ, за трэцім разам даваў пакаштаваць.

У Слуцкім, Мінскім і інш. паветах, заехаўшы ў двор, малады ссаджваў з воза маладую, якая, распрогшы каня, закідвала збрую на страху яго хаты, дугу на страху хлява, а каня, на якім прыехала, пакрывала палатном. Затым зноў садзілася на воз. Да воза, дзе яна сядзела, падносілі дзяжу, пакрытую кажухом ці настольнікам, часам на разасланую салому клалі падушку, куды яна і ступала. У Вілейскім, Гродзенскім і інш. паветах бацькі сустракалі маладых хлебам-соллю, гарэлкай і мёдам. Маладая нізка кланялася бацькам маладога, цалавала ім рукі і пакрывала абоіх палатном, а ў лубку з жытам, у якой стаяла ў час С., клала булачку, перавязаную поясам. Музыкі ўвесь часігралі марш. Затым бацькі ішлі ў хату, за імі маладыя, якіх у сенцах яны прапускалі наперад. Госці маладога загароджвалі ім дарогу, імітуючы якую-небудзь пільную працу. Кожнага з іх маладая павінна была адарыць — каго хусткаю, каго поясам, каго ручніком. У Магілёўскім пав. маладая пры ўваходзе ў хату маладога, пераступаючы ручнік, разасланы на парозе, павінна была высыпаць з рукава на яго жыта. У Мінскім пав. маладая павінна была тройчы прысесці на парозе, потым тры разы пакланіцца печы, куту і ўсім прысутным. У Пінскім пав. маладых тройчы абводзілі вакол стала, спявалі ім «пасаг» (благаславенне або закляцце, якому надавалася асаблівае значэнне і без якога ні шлюбу, ні вяселля не прызнавалі). У Ашмянскім пав. маладых сустракала свякроў у вывернутым кажуху з векам на галаве, тройчы абягала вакол воза, кожны раз кранаючыся векам да галоў маладых. За ёю хадзіў сват, злёгку сцябаў пугай па кажуху, а яна ўхілялася. У Мазырскім пав. ў час С. маці сыпала праз галовы маладых жыта, хмель, авёс і «драмушкі» (шышачкі з каравайнага цеста), каб у маладых было многа дзяцей. Калі пры С. маці частавала маладых гарэлкай, яны тройчы прыгублялі і выплівалі яе цераз плячо, назад, каб усё нядобрае засталося ззаду. У Лідскім пав. маладыя, пакрытыя кавалкам палатна, саскоквалі з воза, а маці маладога ў вывернутым кажуху і падпяразаная перавяслам віталa іх хлебам-соллю і благаслаўляла. Маладыя ішлі ў хату, не здымаючы з сябе палатна. У Дрысенскім пав. свякроў, вітаючы маладую, клала да яе ног касмыль воўны і падарунак. Прыйшоўшы ў хату па разасланым палатне, маладая скручвала яго і перадавала свекрыві. У Гарадоцкім пав. ў час С. свякроў давала маладой жменю лёну, піражок, гаварыла: «Піражок з'еш, а кудзельку спрадзі». Маладая клала кудзелю на бажніцу.

Пасля шлюбу маладыя звычайна ехалі да дому маладой, радзей кожны з маладых ехаў у свой дом. На Пд Беларусі маладым нярэдка даводзілася чакаць С. на двары, бо ім не дазвалялася заходзіць у хату, пакуль не спячэцца каравай і не ўнясуць яго ў камору. Калі давалі знак, што каравай спечаны, сват заходзіў у хату і выкупляў яго ў каравайніц. Свату давалі запаленую свечку, з якой ён аглядаў каравай. Пад марш музыкаў сват з адным з хлопцаў нёс каравай у камору. Хлопцы з вёскі маладой акружалі з усіх бакоў чашніка і не пускалі яго без выкупу ў хату. Перад возам маладых рассцілалі салому і зверху клалі падушку, на якую яны саскоквалі і ішлі да хаты. Насустрач ім у вывернутым кажуху выходзіла маці з векам на галаве, на якім стаялі два кубкі з аўсом і мёдам, а на талерцы быў бохан хлеба і сыр. Маладыя кланяліся, а маці, злёгку ўдараючы іх векам па галовах, запрашала ў хату. У некаторых мясцовасцях сват, падышоўшы да дзвярэй у сенцах, сцябаў па іх пугай накрыж, даваў знаць, што прыбылі маладыя. З хаты выходзіла маці ў вывернутым кажуху з векам, на якім былі хлеб, мёд і грамнічная свечка. Пачаставаўшы маладых, маці благаслаўляла іх і, падняўшы века, прапускала ў хату, датыкаючыся векам да іх галоў («раўнавала векам»), каб былі роўнымі ў жыцці.

С. — шматактавае відовішчнае тэатралізаванае дзейства з мноствам дзейных асоб, дзеянняў і рытуалаў, якое адбывалася ў хаце, на двары і ў дарозе. Асобныя элементы абрадаў С. захаваліся да нашага часу. *Л. А. Малаш.*

**СЦІРТА,** 1) невялікая пабудова для захавання снапоў перад абмалотам і сена. Памеры ў плане — не больш як 3×3 м, таму кампазіцыя будынка атрымлівае вертыкальнае развіццё. Канструкцыя каркасная, аснову яе складаюць 4 слупы, укапаныя ў зямлю па вуглах. Сцены абшывалі дошкамі, гарбылямі. Падлогу прыпаднімалі над зямлёй. Уваход у С. толькі па драбінах. Страха заўсёды двухсхільная. Ставілі С. звычайна ў садзе ці на агародзе. У наш час С. захаваліся ў Ваўкавыскім і Зэльвенскім р-нах. 2) Вялікі, звычайна прадаўгаваты стог сена, саломы або снапоў збожжа для захавання пад адкрытым небам. *С. А. Сергачоў.*

**СЦЯ́БЛА,** традыцыйнае прыстасаванне для перавозу рыбалоўных сетак у лодцы. Уяўляла сабой выдзеўбаны са ствала дрэва жолаб, у які складвалі сетку. С. клалі ўпоперак лодкі так, каб яно краямі абапіралася на барты. Карысталіся С. рыбакі Магілёўшчыны і ПнУ Гомельшчыны.



Сціпта ў вёсцы Падбалоцце Зэльвенскага раёна.

**СЫР,** старадаўні малочны прадукт харчавання. Вядомы ўсім славянам пад такой самай ці этымалагічна тоеснай назвай. На Беларусі С. перш за ўсё называюць выраб, сфармаваны са свежай тварожнай масы. Свежае малако, каб скісла, заліваюць у гліняную, шкляную або паліваную металічную пасудзіну. Як правіла, малако закісае само, зрэдку для паскарэння працэсу дадаюць скарынку хлеба або лыжку смятаны. Кіслае малако ставяць у печ, у гарачы дух або ў гарачую ваду, каб яно стварожылася. Потым выліваюць у спецыяльны палатняны мяшочак — *клінок*, падвешваюць на крук ці цвік, каб сцякала сыроватка (часам выкладваюць у місу, соляць, дадаюць смятаны, перамешваюць і зноў кладуць у клінок). Затым завязаны клінок кладуць паміж дошчачкамі пад

камень або ў спецыяльны прэс, каб адціснуць усю сыроватку да канца. Атрымліваюць С., які спажываюць свежым альбо сушаць, і захоўваюць доўгі час. Даўней С. абавязкова рабілі на велікдзень, масленіцу. На Палессі, месцамі на Магілёўшчыне С. называюць таксама тварожную масу, тварог.

*Г. Ф. Вештарт.*

**СЫРАКО́МЛЯ** Уладзіслаў (сапр. Кандратовіч Людвік; 29.9.1823, б. фальварак Смольгаў, Любанскі р-н — 15.9.1862), беларускі і польскі паэт. У маленстве жыў у арандаваных бацькамі фальварках Яськавічы (Салігорскі р-н), Кудзінавічы (Капыльскі р-н), Мархачоўшчына (Стаўбцоўскі р-н). Вучыўся ў дамініканскіх школах у Нясвіжы (1833—35) і Навагрудку (1836—37). Працаваў у канцылярыі па кіраўніцтву радзівілаўскімі маёнткамі (1840—44, Нясвіж). У 1844—52 арандаваў фальварак Залуча (Стаўбцоўскі р-н), з 1853 — Барэйкаўшчына (каля Вільні). За ўдзел у антыцарскіх маніфестацыях у 1861 зняволены ў віленскую турму. Першы друкаваны твор — вершаванае апавяданне «Паштальён» [Athenaeum (Атэнэум). 1844. № 6], што ў перакладзе паэта Л. Трэфалева стала рус. нар. песняй «Калі я на пошце служыў ямшчыкам». Тэматыка пераважнай большасці твораў С.— беларуская. Асноўная накіраванасць творчасці — барацьба за вызваленне сялянства ад прыгону. Рэалістычна паказваў паднявольнае жыццё селяніна, выкрываў прыгнятальнікаў народа, выступаў супраць царскага самадзяржаўя. Большасць бел. твораў загінула. Зберагліся вершы «Добрыя весці» (нап. 1848, публ. 1863) і «Ужо птушкі пяюць усюды» (нап. 1861). Добра ведаў побыт, культуру, мову бел. народа. Розныя бакі духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў шырока адлюстраваны ў яго творах (гавэндах, паэмах, вершах, драмах), якія ў пэўнай ступені могуць служыць этнагр. крыніцай. Даследчык яго творчасці М. Аксакаў падкрэсліваў, што нельга знайсці ў прыродзе і жыцці Беларусі ніводнай з'явы, ніводнага прадмета, ніводнай асаблівасці народнага быту, якія б не былі аблюбаваны і абласканы пачуццём і думкаю паэта, не былі б апеты ў яго вершах. Асабліва ярка С. паказаў супярэчнасці грамадскага жыцця перадрэформеннага часу, узаемаадносіны паміж сялянствам і дробнай шляхтай, сялянствам і памешчыкамі, дробнай шляхтай і памешчыкамі і інш. На аснове бел. нар. паданняў, легенд і пачутых ад народа апавяданняў узніклі т. зв. гавэнды С.— найважнейшая частка яго паэтычнай спадчыны. Бел. нар. песні і казкі леглі ў аснову яго вершаў «Доля», «Крук», «Жніўная песня», «Дакументы» і інш. Творы С. густа перасыпаны бел. лексікай, народнымі прыказкамі і прымаўкамі. Для вывучэння нар. культуры і побыту, тагачасных уяўленняў пра этнічную гісторыю беларусаў вялікую каштоўнасць маюць яго шматлікія нарысы, артыкулы, даследаванні, эсэ. Першая яго краязнаўчая праца — нататка пра гісторыю Нясвіжа (нап. 1844, апубл. ў 3-м томе «Старажытнай Польшчы», 1846), дзе адлюстраваны некаторыя асаблівасці побыту розных слаёў насельніцтва Нясвіжа ў мінулыя часы. Мае цікавасць і неапублікаваны дадатак да гэтай працы — пералік мастацкіх і этнагр. каштоўнасцей Нясвіжскага замка (дакумент зберагаецца ў аддзеле рукапісаў ЦБ АН Літ. ССР). У працы «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» (1853) даследаваў гіст. мінулае Нясвіжа, Стоўбцаў, Койданава, Міра, жыццё сялян Мінскай губ., іх сацыяльнае становішча, гаспадарку, жыллё, звычаі, ступень асветы, асаблівасці грамадскага і сямейнага побыту, сямейнай абраднасці, нар. земляробчага календара, становішча жанчыны. Асобныя элементы нар. побыту адной мясцовасці ён дае ў параўнанні з аналагічнымі бытавымі з'явамі ў іншых мясцовасцях. Духоўнай культуры бел. народа прысвяціў «Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў Мінскай правінцыі» [Gazeta Warszawska (Варшаўская газета). 1856. № 137, 139, 142]. У 1-й частцы паказаў дыялектныя асаблівасці бел. мовы, якую называў «спеўнай і пяшчотнай», гаварыў пра яе распаўсюджанасць. У 2-й разглядаў звычаі сялян, апісаў валачобныя абрады, дажынкі, вячоркі, раскрыў асаблівасці вясельных, жніўных, купальскіх, сіроцкіх і салдацкіх песень. Падаючы асобныя з гэтых песень у арыгінале, прыйшоў да высновы, што «ў паэзіі нашага народа пераважае лірызм». Гісторыю, духоўную культуру беларусаў, гарадскі побыт асвятліў у працы «Мінск» [Teka Wileńska (Віленскі зборнік). 1857. Т. 1—2]. У 1-й частцы «Агульны погляд на сучасны стан Мінска» апісаў знешні выгляд горада і яго асобных мясцін — Верхняга, Ніжняга, Гандлёвага рынкаў, турэмнага замка, Губернатарскага парку, Койданаўскай, Францысканскай, Зборавай, Дамініканскай, Захар'еўскай, Валоцкай, Юраўскай, Феліцыянскай вуліц, прывёў звесткі пра гандаль, стан асветы, медыцынскае абслугоўванне, заняткі і адпачынак жыхароў. У 2-й частцы «Хроніка горада Мінска» ў храналагічным парадку (ад старажытных часоў да канца 18 ст.) на фоне гісторыі Беларусі падаў гісторыю Мінска. У раздзеле «Даследаванне над даўнімі крывічамі» асвяціў старажытную міфалогію бел. народа. Абапіраючыся на вусна-паэтычную творчасць бел. народа, вераванні і абрады (каляды, купалле, дзяды, дажынкі і г. д.), прасачыў дахрысціянскі светапогляд беларусаў. Выказаў таксама свае меркаванні аб гаспадарцы, сацыяльным ладзе, звычаях продкаў беларусаў. Свае погляды на культуру, мову і этнічную гісторыю бел. народа выклаў у артыкулах, прысвечаных творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча [Варшаўская газета. 1855. № 184, 244; 1857. № 16; Kurier Wileński (Віленскі веснік). 1861. № 19, 20], у якіх горача вітаў бел. паэта за тое, што ён «першы адважыўся пісаць арыгінальныя творы ў шырокім маштабе на нашай народнай гаворцы», што шырока выкарыстоўваў у сваіх творах вусна-паэтычную творчасць беларусаў. С. падкрэсліваў самабытнасць бел. мовы і культуры, абараняў права бел. народа развіваць сваю ўласную літаратуру, мову, выказаў шкадаванне, што багатая калісьці бел. мова знаходзіцца цяпер у застоі і таму перастала ўзбагачацца. У кн. «Нёман ад вытокаў да вусця» (1861, увайшлі «Манаграфія ракі Нёман ад вытокаў да Коўна» і апрацаваны ім «Дзённік падарожжа марака літоўскай віціны ад Коўна да



Човен са **цяблам.**



**У. Сыракомля.**

Крулеўца») змясціў звесткі пра асаблівасць побыту народаў прынёманскага краю. У апошнія гады жыцця працаваў над празаічным творам, у якім намерваўся даць шырокую карціну побыту сялян Міншчыны. Пачатак гэтай працы пад назвай «Вёска» апублікаваны ў газ. «Kurier Litewski» (Літоўскі веснік. 1912. № 201), дзе даў агульнае апісанне роднай вёскі. Фрагментам гэтай працы, відаць, трэба лічыць і арт. «Біяграфія Косача» (1861), у якім параўноўваў побыт сялян і шляхты з прынёманскай в. Свержань. У працы «Экскурсія па Літве ў радыусе ад Вільні» (т. 1—2, 1857—60) змясціў звесткі з жыцця і побыту беларусаў Віленшчыны. Пра «падвіленскі люд» расказваў і ў незакончаным дарожным дзённіку (рукапіс захоўваецца ў ЦДАЛіМ Літ. ССР), у якім апісаў многія бел. гарады і вёскі (Ашмяны, Жупраны, Дзяветня, Каменны Лог і інш.). Многія бакі бел. культуры закрануў у артыкулах, што друкаваліся пад назвай «Мясцовы агляд» у газ. «Виленский вестник». У Барэйкаўшчыне створаны музей-бібліятэка С., яго імем названа вуліца ў Нясвіжы.

*Тв.:* Poezye Ludwika Kondratowicza. T. 1—10. Warszawa, 1872; Выбраныя творы. Мн., 1966.

*Літ.:* Цвірка К. Слова пра Сыракомлю. Мн., 1975; Мархель У. І. Лірнік вясковы. Мн., 1983; Fornalczyk F. Hardy lirnik wioskowy. Poznań, 1972.

*К. А. Цвірка.*

**СЫРАМЯЦЬ**, саматужна апрацаваная нядубленая скура буйной рагатай жывёлы. Лакальная назва сырыца. У стараж. часы С. ужывалася для вырабу абутку (поршні, пасталы), лодак, надзіманых мяхоў, ваеннай амуніцыі (шчытоў, калчанаў для стрэл) і інш. У 19 — пач. 20 ст. С. шырока выкарыстоўвалася ў сялянскім побыце: з яе шылі вупраж, абутак (пасталы), скураныя торбы для захоўвання прадуктаў у дарозе, рабілі лязівы для бортнікаў, дзягі, аборы ў лапці, пугі і арапнікі для пастухоў і інш. Паводле спосабу вытворчасці вядомы скрэбеная (голеная) і квашаная С. Спосаб вырабу скрэбенай С. больш старажытны. Сырую скуру спачатку ачышчалі ад шэрсці і мяздры, пры гэтым яе пасыпалі попелам або мачылі ў водным растворы ванны. На Усх. Палессі да 20 ст. захаваўся стараж. спосаб вырабу С.— «паценне ў гноі». Для атрымання квашанай С. скуру перад ачысткай квасілі ў кіслым водным растворы жытняй мукі з соллю. Квашаная С. была больш эластычнай, але менш трывалай, таму выраблялі яе не паўсюдна (пераважна на Зах. Палессі). Скуру ачышчалі ад шэрсці і мяздры звычайнай касой або нажом з дзвюма ручкамі (струг) на нахіленай паўкруглай дошцы — *аполку*. Каб надаць скуры большую эластычнасць, яе млялі, змазаўшы брозавым (чыстым) дзёгцем (у гарадах і мястэчках ужывалася і *ворвань*). Для мяцця іспавала спецыяльнае прыстасаванне — *мяла*. *Н. І. Буракоўская.*

**СЫРНІЦА**, гаспадарчая пабудова для сушкі і захоўвання сыру. Вядомы пераважна ў сядзібах і фальварках 16 — пач. 20 ст., з 19 ст.— і ў некаторых сялянскіх гаспадарках. Найчасцей будавалі С. каркаснай канструкцыі на слупах са сценамі з плятня або дошак (Давыд-Гарадок, 17 ст.; в. Івань Слуцкага р-на, 17 ст.). У 19 ст. ў в. Рудня Астравецкага р-на была С. на 1 слупе. Многія С. мелі 2 ярусы (у ніжнім збераталіся малочныя прадукты, б. маёнтак Рыбава, Клецкі р-н, 1697). У некаторых С. верхні ярус меў ганак ці галярэйку, куды вяла адкрытая лесвіца (б. маёнтак Залучча, Стаўбцоўскі р-н). Выкарыстоўваліся С. і для сушэння зёлак.

*Ю. А. Якімовіч.*

**СЫРНІЦА**, тварожная маса, якую збіралі працяглы час і складвалі для захоўвання. Тварог насуха адціскалі і шчыльна складвалі ў дзежку (ушчыльнялі яго драўлянай лыжкай або рукой), залівалі маслам; праз некаторы час дадавалі слой новага тварагу і слой масла і г. д. Звычайна С. рабілі пасля ацёлу кароў у час посту, калі малако было, але яго забаранялася есці. Спажывалі С. звычайна разагрэтай. Вядома на Міншчыне, Вілейшчыне, Віцебшчыне. Падобна да *брынзы*.

*Г. Ф. Вештарт.*



Сявенька.

**СЫТА**, засаладжаная мёдам вада. Спажывалі С. як посную закрасу да кашы, куцці, кісялю, асабліва на калядны. На памінкі, дзяды гатавалі абрадавую страву — *канун* (у С. крышылі хлеб). Самастойна С. спажывалі ў дні посту, калі нічога не елі, толькі пілі яе. Спарадычна вядома па ўсёй Беларусі.

Пчаляры выкарыстоўвалі С. для падкормкі пчол і прывабліванія раёў у пустыя вуллі і вабікі. Рабілі вадкую і густую С. Вадкая ўтрымлівала адну частку мёду і 2—3 часткі вады, ужывалася вясной і раннім летам для стымуляцыі яйканоснасці матак і павелічэння расплоду. Густую С. гатавалі з 2—3 частак мёду і адной часткі вады і выкарыстоўвалі для веснавой падкормкі пчол пры недахопе ў вуллі мёду пасля зімы. Падкормку ставілі ў вулей позна вечарам, калі пчолы ўжо не лягалі, а вымалі ўранку, калі яны яшчэ не вылятаалі з вулля.

*Г. Ф. Вештарт, С. Ф. Цярохін.*

**СЯБРЫНА**, народны звычай сумеснага карыстання сенажаццю, пашай, пчоламі (гл. *Сябрына пчалярская*), падоранай зямлёй і г. д. Саўладальнікаў маёмасці называлі сябрамі. Характэрнымі рысамі адносін паміж імі была дружба і ўзаемадапамога. Звычай С., як і *бонда*, патранімічнага паходжання (гл. *Патранімія*). Была найбольш пашырана ў 14—16 ст. на Пд Беларусі. Рэшткі С. захаваліся да пач. 20 ст.

**СЯБРЫНА ПЧАЛЯРСКАЯ**, сумеснае ўтрыманне пчол і карыстанне прадуктамі пчалярства. Утваралася на паявых пачатках у выніку папярэдняй дамоўленасці. Часта ўзнікала выпадкова, калі, напр., рой аднаго гаспадара сяліўся ў пустым вуллі другога,— абодва пчаляры аўтаматычна станавіліся сябрамі, а вулей з пчоламі — іх агульнай уласнасцю (т. зв. «сябрынныя пчолы»). Пашыраны былі вясельныя сябрыны: маладым пры дзяльбе караваю дарылі «палову пчол». Узнікалі С. п. і шляхам аб'яднання невялікіх пасек. Уступалі ў іх і па грашовым узносе, на які набывалі пчалярскі інвентар, матэрыял для новых вулляў. Сабраны сумесна мёд дзялілі адпаведна дамоўленасці.

*С. Ф. Цярохін.*

**СЯВЕНЬКА**, *сявалка*, ёмістасць для ручной сяўбы. Лакальныя назвы сяўня, каробка. С. рабілі з саломы, лазы, лубу (кары ліпы, вяза), тонкай хваёвай дранкі і інш., дно — з тонкай дошкі. Сустракаліся С. палатняныя (каркас з тонкіх дубцоў, расшчэпленых папалам, дно дашчанае з тонкіх драўляных клёпак. Мелі разнастайную форму: круглую, авальную, прамавугольную, пяцівугольную, звычайна крыху расшыраныя ўверсе. Памеры С.: вышыня 17—26, даўжыня 36—60, шырыня 33—36 см. Для пераносу С. служылі вушкі (з сырамятнай скуры, пянькі, дроту), да якіх прывязвалі рэмень, вяроўку, зрэдку ручнік, што надзяваліся праз плячо. Падстаўкай у саламяных С. часам служыў прут, які адпавядаў перыметру дна. Найбольш пашыраны былі С. саламяныя (паўд.-зах., зах., цэнтр. і паўн. раёны рэспублікі) і лубяныя (Магілёўшчына, усх. частка Міншчыны); палатняныя бывалі ў Клімавіцкім і суседніх раёнах. *А. Ф. Літвіновіч.*

**СЯДЗЁЛКА**, частка *вупражы;* тое, што і *падсядзёлак*.

**СЯДЗІБА**, *аселішча*, комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў разам з дваром, агародам і садам, якія складаюць індывідуальную гаспадарку селяніна. Тэрмін С. (у некаторых раёнах «сяліба») ужываецца на Беларусі з 15 ст. Яго пашырэнне звязана з правядзеннем аграрнай рэформы 1557, т. зв. валочнай памеры, калі новыя пасяленні закладваліся на сядзібным (сярэднім) полі. Форма С. залежала ад шырыні надзелу і мела выгляд падоўжанага прамавугольніка. Сядзібныя пляцы размяшчаліся гал. ч. перпендыкулярна да шляхоў

зносін, а ў валочных пасяленнях — на абодвух баках вуліцы. Падзел сямей і працэс класавага расслаення прывялі да змяншэння памераў і ліквідацыі двухбаковых С.

Размяшчэнне С., узаемасувязь жылых і гасп. пабудоў, арыентацыя *хаты* адносна вуліцы вызначалі характар сядзібнай забудовы, яе тып і архітэктурны ансамбль. Бытаванне пэўных тыпаў гасп. пабудоў, выбар месца, парадак і паслядоўнасць іх размяшчэння абумоўліваліся шэрагам прычын: кліматычнымі ўмовамі, рэльефам мясцовасці, гіст. фактарамі, сацыяльна-эканам. становішчам пэўных груп сельскага насельніцтва, наяўнасцю мясцовых будаўнічых матэрыялаў, этнічнымі традыцыямі, памерамі і формай пляца, планіроўкай *вёскі* і шэрагам другарадных акалічнасцей, падчас нават асабістымі патрэбамі і густам гаспадара. З усёй разнастайнасці сялянскіх С. для Беларусі найб. характэрны тры асн. тыпы двара — вяночны, пагонны і двор з нязвязанымі пабудовамі.

Пры вяночнай забудове комплекс жылых і гасп. будынкаў утвараў квадрат або прадаўгаваты чатырохвугольнік, усе пабудовы ў якім звязаны паміж сабою. Прамежкі паміж жылымі і гасп. пабудовамі закрываліся *замётамі* — парканамі з бярвён, закіданых у найбольш забудове назіраліся розныя варыяцыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вяночная забудова пераважала ва ўсх. частцы Беларусі (Віцебская, Магілёўская, Гомельская вобл.), радзей сустракалася ў цэнтр. раёнах (Мінская вобл.) і толькі спарадычна і значна пазней — у паўд.-зах. частцы Беларусі (Гродзенская і Брэсцкая вобл.).

Пагонную забудову можна падзяліць на два падтыпы: адна- і двухрадную. Пры аднараднай забудове жыллё і гасп. збудаванні ўтвараюць рад (пагон) даўжынёю ў некалькі дзесяткаў метраў. У большасці выпадкаў усе гасп. пабудовы шчыльна прымыкалі да хаты і былі накрыты суцэльнай страхой. Значна радзей пад агульнай страхой стаялі толькі хата, сенцы і варыўня, а гасп. пабудовы, хоць і прымыкалі да варыўні, мелі сваю страху, трохі ніжэйшую. Іншы раз паміж жылымі і гасп. пабудовамі пакідалі невялікі прамежак. Былі выпадкі, калі на адной С. знаходзілася па два і больш двароў. Пры двухраднай забудове ўсе будынкі ўзводзілі ў два паралельныя рады. У адным размяшчалася хата з аднолькавымі па шырыні, але значна карацейшымі сенцамі, якія часта перагароджвалі дошкамі і аддзялялі частку сянец пад камору. Да сянец непасрэдна прымыкала варыўня або клець. У гэтым радзе нязвязанымі пабудовамі. Яны з'явіліся параўнальна нядаўна. Размяшчэнне гасп. пабудоў хоць з няззначнымі прамежкамі паміж будынкамі абумоўлена перш за ўсё мерамі процілажарнай засцярогі і агульным паляпшэннем санітарна-гігіенічнага стану вёскі. Частыя пажары ў скучаных пасяленнях прыносілі сялянам вял. страты. Прамежкі паміж будынкамі лакалізавалі ачаг агню. Найбольшае пашырэнне двароў з нязвязанымі пабудовамі адзначана ў Мінскай, Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

Перамяшчэнне гасп. дзейнасці з сялянскага двара на вытворчыя ўчасткі грамадскай гаспадаркі закранула традыц. тыпы сельскай С. Да рэвалюцыі колькасць і размяшчэнне гасп. пабудоў былі абумоўлены патрэбамі аднаасобнай дробнатаварнай гаспадаркі, характар якой патрабаваў простай, кароткай і непасрэднай сувязі жылля з гасп. пабудовамі. Таму сялянскі двор узводзіўся «купай». Пры калектыўных формах гаспадарання адпала неабходнасць у шэрагу пабудоў (памяшканні для захоўвання і абмалоту збожжавых культур, утрымання коней, валоў, захоўвання с.-г. прылад і г. д.). Непатрэбныя



**Сядзіба.** Пагонны двор. Вёска Сіўцы Пастаўскага раёна.



**Сядзіба.** Вяночы двор. Краснапольскі раён.

шулы. Звычайна тарцом да вуліцы ставілі хату, да хаты амаль заўсёды прыбудоўвалі *сенцы* аднолькавай з ёю шырыні, да сянец — *варыўню* або *камору* (часам адразу ж за сенцамі ставілася другая хата). Да варыўні або каморы непасрэдна прымыкаў *хлеў* з асобным уваходам са двара. Паралельна апісанай лініі пабудоў, таксама ў рад і шчыльна адзін да аднаго, ставілі другія хлявы і свіран *(клець)*. Уваход у яго абавязкова быў насупраць вакон хаты. Такое кампактнае размяшчэнне гасп. пабудоў на адным двары надзейна бараніла сялянскую сям'ю і яе набытак ад ліхіх людзей, а скаціну — ад драпежнікаў. Але ў выпадку пажару агонь хутка спапяляў усю С. У выбары месца для асобных пабудоў у межах аднаго і таго ж тыпу сядзібнай планіроўкі бел. селянін дакладна не прытрымліваўся якіх-небудзь правіл. Таму пры вяноч- маглі знаходзіцца і інш. гасп. пабудовы — паветка, аўчарня і г. д. Хата, сенцы і варыўня звязваліся паміж сабой унутр. дзвярамі, хата і сенцы — агульнай страхой, а варыўня і свіран — другой. Нярэдка ўсе пабудовы былі пад адной страхой. На процілеглым баку двара шчыльным радам размяшчаліся астатнія гасп. будынкі — розныя па прызначэнню хлявы: каровнік, свінарнік, аўчарня, цялятнік, стайня, потым — свіран, паветка для дроў і розных прылад працы, вазоў, саней і г. д. Свіран, як і пры вяночнай забудове, часцей за ўсё будавалі насупраць падоўжнай сцяны хаты, крылі асобнай страхой. Тут таксама магло быць шмат варыянтаў, але абавязковым было размяшчэнне ўсіх пабудоў у два рады, паміж якімі знаходзіўся вузкі праход — двор. У зону пашырэння пагоннага двара ўваходзіць Бел. Палессе (ніжняе цячэнне Цны) і інш. раёны Брэсцкай і Гродзенскай абласцей.

У асобную групу вылучаюцца С. з будынкі з цягам часу былі знесены. Іх знікненне з сялянскага двара змяніла яго планіроўку і паставіла пытанне аб новай арганізацыі тэрыторыі ўсёй С. Працэс перапланіроўкі сялянскага двара прыкметна парушыў традыц. ансамбль вяночных С. на ПнУ і ПдУ Беларусі (Віцебская, Магілёўская вобл.). Трансфармацыя сядзібных планіровак мела сваю спецыфіку: адны С. развіваліся ў напрамку двухраднага пагону, другія — Г-падобнага тыпу, з нязвязанымі пабудовамі, якія цяпер шырока бытуюць амаль паўсюдна на Беларусі. Змены закранулі і інш. тыпы С. У аднарадных дварах паміж жылой і гасп. пабудовамі ўтвараецца прамежак. Змяншэнне колькасці гасп. пабудоў дазволіла аднесці хлеў далей ад хаты і размясціць яго за 10—20 м ад жылля; прастора паміж імі засаджваецца садовымі або дэкаратыўнымі дрэвамі. Па-

меры і канфігурацыя прысядзібных участкаў, атрыманых сялянамі ў выніку калектывізацыі, дазволілі больш мэтазгодна і зручна размяшчаць жылыя і гасп. будынкі. Аднак традыц. забудова сялянскіх С. вянком, хоць у значнай ступені і мадыфікаваная, захоўваецца ў Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях. На ПдЗ рэспублікі захаваўся аднарадны тып вуліцы ці пагонная забудовы. Традыцыйнае размяшчэнне хаты тарцом да вуліцы, як і раней, шырока бытуе на Беларусі. *У. С. Гуркоў.*

**СЯДЛО́**, сядзенне для верхавой язды на кані. Складалася з драўлянай асновы, дзвюх бакавых дошчачак, абшытых лямцам, давюх лук — выгібаў пярэдняга і задняга краю С., — падпшукі, папругі і стрэмен — прыстасаванняў для ўпору ног конніка ў выглядзе жалезных дужак з вушкамі, што падвешваліся да С. пры дапамозе вяровак ці рамянёў.

**СЯКЕ́РА**, традыцыйная універсальная прылада для апрацоўкі дрэва і іншых матэрыялаў. Вядома з часоў палеаліту. Уяўляла сабой завостраны камень, прымацаваны жгутамі да палкі-ручкі; першабытнаму чалавеку яна служыла прыладай працы і паляўнічай зброяй. З асваеннем тэхнікі свідравання і шліфавання каменю паявіліся С. з правушынай у сярэдняй, больш тоўстай частцы, у якой трывала замацоўваўся канец ручкі. З адкрыццём жалеза С. стала адной з самых пашыраных жалезных прылад і відаў зброі. Раннеслав. і балцкія плямёны, што жылі на тэр. Беларусі, ужывалі і С. ўтульчатыя: іх нешырокае лязо заканчвалася зверху конусападобным раструбам, у якім замацоўвалася крукападобная ручка. Стараж.-рускія правушныя С. мелі параўнальна вузкі (падоўжаны) профіль лязва і прыкметна адцягнутыя акруглы абух. Яны былі лягчэйшыя за сучасныя цяслярскія, што ствapaлa пэўныя нязручнасці ў рабоце, але гэты недахоп кампенсаваўся даўгой прамой ручкай. Як паказваюць археалагічныя знаходкі ў стараж. Полацку, Бярэсці і інш. бел. гарадах, верхняя (абуховая) частка С. рабілася нярэдка з простага, ардынарнага жалеза, а да яго знізу прыварвалася вострае стальное лязо. Універсальнасць С. як сякучага, ударнага і стругальнага інструмента і як віду баявой зброі абумовіла з цягам часу ўдасканаленне яе формы ў залежнасці ад спецыялізацыі на тых ці інш. работах і функцыянальнага прызначэння. Такія разнавіднасці С., як калун і *склюд*, у адрозненне ад цяслярскай ці лесарубнай, прызначаліся для вузкага профілю работ. Калун меў больш масіўнае лязо адпаведнай формы і быў зручны пры расколе калод. Яго роля ў вытворчай практыцы была больш істотнай, бо да сярэдзіны 19 ст. дошкі (цёс) у большасці атрымлівалі расколваннем бярвён на плахі (з гэтай мэтай выкарыстоўваліся і драўляныя кліны). У традыцыйным побыце беларусаў шырока вядомы і невялікія С. накшталт сучасных турысцкіх. Яны ўжываліся для апрацоўкі малых форм і дробнага рамонту с.-г. інвентару; з ёю араты выходзіў у поле і насіў яе за поясам, папраўляючы, калі трэба, сошку; яе бралі, адпраўляючыся на інш. с.-г. работы або ў дарогу. Малыя і цяслярскія С. шырока ўжываюцца ў нар. побыце і ў наш час. *В. С. Цітоў.*



Сякеры: 1 — цяслярская; 2 — калун.

**СЯЛІ́ЦКІ** (Sielicki) Францішак (н. 29. 11.1923, в. Мікуліна, Вілейскі р-н), польскі літаратуразнавец-славіст, фалькларыст. Д-р. філал. н. (1966). Скончыў Вроцлаўскі ун-т (1955). З 1978 праф. Ін-та слав. філалогіі Вроцлаўскага ун-та. Аўтар прац «Беларускія вясельныя абрады і песні з вёскі Мікуліна...» (1979), «Беларускія жартоўныя песні і вершы з ваколіц вёскі Мікуліна...» (1980), «Пахавальныя і дзядоўскія песні, якія выконваліся ў б. Вілейскім павеце» (1982), «Відовішчы ў вёсцы Мікуліна б. Вілейскага павета ў міжваенны перыяд» (1982) і інш., прысвечаных культуры бел. народа. Напісаў кнігі «Аповесць мінулых гадоў. Гістарычна-літаратурная характарыстыка, пераклад і каментарый» (1968), «Максім Горкі сярод польскіх спраў» (1971), «Падарожжа баярына Барыса Шарамецева праз Польшчу і Аўстрыю ў Рым, а таксама на Мальту, 1697—1698» (1975). Выдаў падручнік «Беларускі фальклор» (1983). Выступае ў польск. друку з рэцэнзіямі на працы бел. філолагаў і гісторыкаў.

*Тв.:* Literatura białoruska do końca XVIII wieku. Wrocław, 1985. *А. І. Мальдзіс.*

**СЯЛО́**, старажытны тып сельскага паселішча на Беларусі. Узнікла ў выніку працяглага і складанага працэсу развіцця сацыяльна-эканам. адносін і непасрэдна звязана з земляробствам. Тэрмін «С.» сустракаецца ва ўсіх слав. мовах. У якасці пэўнага тыпу паселішча ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» у запісах аб падзеях 10 ст. Спачатку С. было загараднай княжацкай сядзібай, дзе побач з гаспадарскім дваром знаходзіліся хаты чэлядзі. Большасць даследчыкаў (М. П. Паўлаў-Сільванскі, В. В. Ключэўскі, К. А. Няволін і інш.) вызначалі С. як цэнтр вотчыны ці маёнтка, дзе жыў феадал. На першых этапах свайго развіцця С. адрознівалася ад вёскі большымі памерамі, адміністрацыйным і гандлёвым значэннем, з цягам часу ў буйных С., дзе жыла адміністрацыя і размяшчаліся рынкі, будавалі цэрквы. Пазней С. пачалі лічыць цэнтр. паселішча з царквою, валасным праўленнем, урадніком, царкоўна-прыходскім вучылішчам і фельчарам. Але так было не паўсюдна. Напр., у Віцебскай губ. ў сярэдзіне 19 ст. налічвалася 293 храмы (прычым у сельскай мясцовасці 190), а С. было 1319. Значны ўплыў на развіццё С. па Беларусі зрабіла зямельная рэформа «Устава на валокі» (1557), згодна з якой адзінкай феадальнай павіннасці замест службы (двор або некалькі двароў) стала паселішча. Населеныя пункты пачалі адрозніваца не па тыпах і формах, а па відах павіннасцей. Паявіліся «сёлы цяглыя», «сёлы асадныя», «сёлы дворныя» і інш., што прывяло да знікнення ў зах.-бел. рэгіёнах, дзе была праведзена рэформа, тэрміна «дзярэўня» і ўсталявання тэрміна «сяло». Далейшае павелічэнне колькасці С. звязана з асваеннем новых ці адраджэннем запусцелых зямель пасля Паўночнай вайны 1700—21. Напр., у Крычаўскім графстве з 1714 па 1727 заснавана 40 сёл. Да сярэдзіны 19 ст. С. развілося ў адміністрацыйна-тэрытарыяльны і культурны цэнтр у адносінах да бліжэйшых населеных пунктаў. У далейшым са зменамі сацыяльна-эканам. умоў С. страчваюць ролю адміністрацыйна-тэрытарыяльных цэнтраў, сціраюцца адрозненні паміж С. і вёскай. У наш час асноўным афіцыйным найменнем сельскага паселішча з'яўляецца вёска. *У. С. Гуркоў.*

**СЯЛЯ́НЕ-СЛУ́ГІ**, катэгорыя сельскага насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім у 15—18 ст., якія выконвалі на карысць феадалаў ваенныя, рамесныя, абслуговыя і інш. службы. Да С.-с. належалі: ваенна-дваровыя слугі (панцырныя і путныя *баяры, зямяне*, пушкары, конюхі, псяры і інш.), слугі-рамеснікі (кавалі, *бондары, калёснікі*, саннікі, *ганчары*, млынары, півавары, дойліды, сядзельнікі і інш.), а таксама *асочнікі, бортнікі, баброўнікі*, рыбаловы, садоўнікі, *стральцы*, лоўчыя і інш. Былі ў дзярж., прыватнаўласніцкіх і царкоўных уладаннях, з'яўляліся прывілеяванай катэгорыяй. Паводле заканадаўства Вял. кн. Літоўскага пакаранне за забойства путнага чалавека ці рамесніка было вышэйшым, чым пакаранне за простага чалавека. Зямельныя надзелы асноўнай масы С.-с. перавышалі надзелы цяглых і асадных сялян, яны былі лепш забяспечаны сродкамі вытворчасці, карысталіся некаторымі прывілеямі. Сацыяльнае становішча і ступень феадальнай залежнасці роз-

ных груп С.-с. былі неаднолькавыя, адны з іх лічыліся прыгоннымі («непахожыя» людзі), другія мелі права пераходу ад аднаго феадала да другога («пахожыя» людзі). Да канца 18 ст. гаспадарчая патрэба ў існаванні многіх груп С.-с. знікла і яны былі пераведзены на грашовыя і цяглыя павіннасці. *В. Ф. Голубеў.*

**СЯМЕ́ЙНА-АБРА́ДАВАЯ ПАЭ́ЗІЯ,** від беларускага фальклору; творы, што суправаджалі абрады, звязаныя з асноўнымі этапамі жыцця чалавека: нараджэннем, шлюбам, смерцю. Адлюстравала народны ідэал сямейных узаемаадносін, працоўнай дзейнасці селяніна, яго побыт і жыццё. С.-а. п., як і *абрады,* павінна была ўздзейнічаць на звышнатуральныя сілы, прыроду і грамадства, каб палепшыць лёс чалавека, яго дабрабыт, аберагчы ад бяды і няшчасцяў. Узнікла ў эпоху першабытнаабшчыннага ладу, пазней набыла шмат спецыфічных нацыянальных рыс, што выявілася ў жанрава-вобразнай сістэме, ідэйна-тэматычным змесце і мастацкай форме. Адметнае месца ў С.-а. п. займала р а д з і н н а я п а э з і я: песні, прыпеўкі, зычэнні, якімі суправаджаліся пэўныя абрады (найбольш поўна захаваліся ў бел. фальклоры). І абрадам, і песням прыпісвалася магічная сіла, здольная абараніць парадзіху і дзіця ад злых сіл. Вылучаліся велічальныя, жартоўныя і застольна-бяседныя песні. У велічальных песнях услаўлялася парадзіха, бацька дзіцяці, бабка-павітуха, кума, кум. Глыбокай пашанай прасякнуты песні пра маладую маці; клапатлівым і старанным, спагадлівым да жонкі і дзіцяці паказваўся гаспадар. Шмат песень прысвячалася бабцы: шанаванне яе ў песнях спалучалася з дасціпным гумарам. Паступова радзінныя абрады і звязаная з імі паэзія страцілі сакральны, магічны характар і сталі выконваць пераважна эстэтычна-мастацкую функцыю. Вялікую папулярнасць набылі жартоўныя песні, выканаўцы якіх добразычліва пацяшаліся з бабкі і кумоў. У бяседных песнях з лёгкім гумарам абмалёўваліся ўдзельнікі ўрачыстасці, славілася гасціннасць і шчодрасць гаспадароў, выказвалася радасць з нагоды нараджэння новага чалавека. Найбольш захаваліся жартоўныя песні, многія з якіх актыўна бытуюць і ў наш час. Асаблівым багаццем і паэтычнасцю вылучалася в я с е л ь н а я п а э з і я. Песні, прыпеўкі, прыгаворы, прамовы гучалі на працягу ўсяго вяселля, пачынаючы са сватання. Выконваліся яны ў пэўным парадку асноўнымі ўдзельнікамі шлюбнай урачыстасці, ролі якіх былі рэгламентаваны традыцыяй. Песні, якія суправаджалі суборную суботу, пасад, выпечку каравая, шлюбавіны, пярэзвы і інш., паэтызавалі вясельныя абрады, стваралі ўрачысты настрой і разам з тым служылі пэўным юрыдычным замацаваннем кожнага этапу вяселля. Багатая нар. сімволіка, персаніфікацыя, антытэза, трапныя параўнанні, яркія эпітэты і інш. мастацкія сродкі і прыёмы стваралі вобразы надзвычайнай выразнасці. Глыбокай эмацыянальнай узрушанасцю вылучаліся сіроцкія песні, у якіх нявеста-сірата прасіла бацькоў устаць з магілы і благаславіць яе шлюб. У час застольнай бяседы спявалі таксама песні, непасрэдна не звязаныя з абрадам: велічальныя, лірычныя, жартоўныя і інш. Песні стваралі ідэальныя вобразы маладых, параўноўваючы іх з сімвалічнымі вобразамі сонца, зорак, месяца, паказвалі ўзаемаадносіны жаніха і нявесты, іх стаўленне да бацькоў. У жартоўных вясельных песнях з дасціпным народным гумарам абмалёўваліся сват, сваццця, дружкі, іншыя ўдзельнікі вяселля. Завяршальны цыкл С.-а. п. складаюць пахавальныя г а л а ш э н н і — імправізаваныя песенна-рэчытатыўныя творы, у якіх аплаквалася смерць блізкага чалавека. Галашэнні, вядомыя з глыбокай старажытнасці, грунтуюцца на веры ў бессмяротнасць душы, на ўяўленнях аб тым, што чалавек і пасля смерці можа дапамагаць або шкодзіць жывым. Смутак, бязмерная гора і душэўны боль гучаць у галашэннях жонкі па мужу, маці па дзіцяці. Цесна звязаныя з вуснай нар. традыцыяй устойлівыя слаўесныя формулы, кранаючыя вобразы ўзмацнялі эмацыянальнае ўздзеянне. Цесна звязаная з жыццём і працай чалавека, С.-а. п. адлюстравала сацыяльна-эканам., бытавыя і культурныя ўмовы яго існавання ў розныя гіст. эпохі. *А. С. Фядосік.*

**СЯМЕ́ЙНАЕ ЗВЫЧАЁВАЕ ПРА́ВА,** гл. ў арт. *Звычаёвае права.*

**«СЯМЕ́НАЎНА»,** гарадскі бытавы танец. Складаецца з невялікага набору стандартных рухаў, такіх, як простыя крокі наперад ці назад, павароты ходам полька-вальс як у пары, так і павароты дзяўчыны пад рукой у юнака. У набор стандартных рухаў танцоры ўносілі элементы з народнага танца (прытопы, пляскание ў далоні, вярчэнне полечнага характару). Найбольш пашыраная кампазіцыя «С.» складалася з чатырох простых крокаў у прасоўванні наперад і назад; павароту дзяўчыны ходам полькі пад рукой у юнака, павароту ў пары ходам полька-вальс у прасоўванні па крузе (падтрымка ў пары, як у вальсе). Асноўны малюнак кампазіцыі — круг. Выкананне танца абавязкова суправаджалі шматлікія прыпеўкі. «С.» сустракаецца па ўсёй Беларусі. *В. В. Шапавалава.*

**СЯМ'Я́,** сацыяльная катэгорыя; неад'емная частка грамадскай сістэмы. Заснавана на *шлюбе,* кроўна-сваяцкіх адносінах людзей, на агульнасці побыту, узаемнай маральнай адказнасці і сацыяльнай неабходнасці ў фізічным і духоўным выхаванні чалавека. Асноўныя функцыі С.— рэпрадукцыйная (нараджэнне дзяцей), выхаваўчая, гаспадарча-эканамічная, рэкрэатыўная (узаемадапамога, падтрыманне здароўя, арганізацыя вольнага часу, адпачынку і інш.), камунікатыўная і рэгулятыўная (кантроль, рэалізацыя ўлады і аўтарытэт сям'і). Структура С.— спосаб і арганізацыя сувязей паміж яе членамі (бацькі, дзеці, муж, жонка, сваякі і інш.), характар іх узаемаадносін, паводзін і свядомасці. Да структуры адносіцца і склад С.: колькасць членаў, пакаленняў, шлюбных пар, дзетнасць, ступень і характар сваяцтва (прамое, бакавое і інш.), нацыянальная прыналежнасць. У залежнасці ад характару шлюбных саюзаў адрозніваюць С. палігамныя (мнагашлюбныя), парныя (няўстойлівыя саюз мужа і жонкі), манагамныя (аднашлюбныя). Ад колькасці шлюбных пар і характару вядзення гаспадаркі вызначаецца форма С.— нераздзеленая і малая. Нераздзеленая — сумесна пражываюць і вядуць агульную гаспадарку некалькі шлюбных пар. У залежнасці ад сваяцтва такія С. дзеляцца на бацькоўскія (сумесна пражываюць бацькі і іх жанатыя сыны) і брацкія (сумесна жывуць два ці больш жанатых братоў). У залежнасці ад колькасці пакаленняў вызначаюцца С. адналінейныя (бацькі, жанаты сын, унукі) і многалінейныя (бацькі і два ці больш жанатых сыноў, або два і больш жанатых братоў). Да малой С. адносяцца нуклеарныя (шлюбная пара з дзецьмі або без іх) і складаныя (акрамя шлюбнай пары і дзяцей пражывае адзін з бацькоў ці інш. сваякоў — брат, сястра, пляменніца і інш.). Сярод малых С. ёсць няпоўныя (удовыя, мужчыны і жанчыны з дзецьмі пасля скасавання шлюбу, асобы, якія не ўступілі ў шлюб, але маюць дзяцей). У эпоху феадалізму колькасна пераважалі нераздзеленыя С. Адмена прыгоннага права і маёмаснае расслаенне сялянства садзейнічала іх драбленню. З канца 19 — пач. 20 ст. пераважае малая С. Змяніўся і яе колькасны склад: паменшылася колькасць С. з 6—10 чал. і павялічылася з 2—5 чал. Дарэвалюцыйная С. вызначалася аўтарытарнай структурай: сямейны калектыў узначальваў гаспадар, як правіла, старэйшы мужчына (у бацькоўскай — бацька, у брацкай — старэйшы брат). У нераздзельнай С. мела месца цэнтралізацыя ўлады, што спрыяла поспеху вядзення гаспадаркі. І ў бацькоўскай, і ў брацкай С. асноўныя абавязкі ў адносінах да членаў С. былі аднолькавымі. Улада галавы С. сярод яе членаў была бясспрэчнай. Ён размяркоўваў працу паміж членамі С., адказваў за арганізацыю сямейнага побыту, нёс маральную і матэрыяльную адказнасць за С. і быў прыкладам ва ўсім для яе членаў. У брацкай С. ўсе браты юрыдычна былі раўнапраўнымі, да галавы С. адносіліся з павагай і выконвалі яго распараджэнні. У малой С. кіраваў муж. Ва ўнутрысямейных адносінах не малую ролю адыгрывала жанчына. Яе палажэнне было неаднолькавым. У бацькоўскай С. гаспадыняй была маці (свякроў), у брац-

кай — жонка старэйшага брата. Яна кіравала жанчынамі С., вучыла іх гаспадарчым справам, размяркоўвала паміж імі працу, сачыла за парадкам у хаце, гатавала ежу, пякла хлеб і інш. Нявесткі поўнасцю залежалі ад свекрыві. Першай памочніцай гаспадыні была старэйшая нявестка. У малой С. жонка падпарадкоўвалася толькі мужу.

У наш час на Беларусі пераважае малая нуклеарная С. (у сярэднім 3,3 чал.). Сацыяльнымі вызначальнікамі структуры С. з'яўляюцца сацыяльная аднароднасць ці неаднароднасць яе членаў, іх адукацыя, прафесія, этнічныя — узаемаадносіны паміж мужам і жонкай аднай і розных нацыянальнасцей, паміж бацькамі і дзецьмі (нараджэнне дзяцей, этнічнае змешванне, нацыянальнае самавызначэнне іх), паміж пакаленнямі (перадача культурных традыцый, у т. л. і інтэрнацыянальных элементаў). Сучасная С. эгалітарная, заснавана на размеркаванні роляў у адпаведнасці з асабістымі якасцямі кожнага члена сямейнага калектыву. Роля галавы С. намінальная. Ад лідэра С. патрабуецца ўменне аб'яднаць калектыў, дадатна ўплываць на псіхалагічны стан. Карэнным чынам змянілася ў С. і становішча жанчыны. Яна актыўна ўдзельнічае ў вытворчай дзейнасці, эканам. забеспячэнні С., мае раўнапраўе ў вырашэнні розных сямейных праблем. У сваю чаргу занятасць жанчыны ў вытворчасці, рост яе адукацыйнага і культурнага ўзроўню паўплывалі на змяншэнне колькасці дзяцей. Сучасная С. арыентавана на 2—3 дзяцей. Змяніліся адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Яны заснаваны на павазе і сардэчнасці. *Г. М. Курыловіч.*

**СЯРМЯГА,** верхняе адзенне з грубага нефарбаванага даматканага сукна. У адрозненне ад *світкі* была штодзённай рабочай вопраткай.

**СЯРПАНКА,** даўні галаўны ўбор замужніх жанчын на Беларусі; тое, што і *намітка.*

**СЯРЭДНЕДНЯПРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура плямён бронзавага веку, якія ў 2-й пал. 3 — 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. насялялі Верхняе і Сярэдняе Падняпроўе (тэр. Гомельскай, Магілёўскай, часткова Мінскай і Віцебскай абл.). Мае ранні (26—24 ст. да н. э.), сярэдні (23—18 ст. да н. э.) і позні (18—15 ст. да н. э.) этапы, на Беларусі вядомы сярэдні і позні этапы. Асноўны занятак насельніцтва — земляробства і жывёлагадоўля, дадатковы — рыбалоўства, паляванне і збіральніцтва. Паселішчы плошчай 1—3,5 тыс. м² размяшчаліся на пясчаных дзюнах, узвышэннях поймы, на краях тэрас і ўчастках карэннага берага. Наземныя жытлы слупавой канструкцыі плошчай да 44 м² і паўзямлянкі плошчай да 10 м² мелі ўнутры каменныя агнішчы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у авальных або прамавугольных ямах, перакрытых драўляным накатам, у скурчаным становішчы на баку з падсыпкай попелу і охры і трупаспаленне на курганных і бескурганных могільніках. На паселішчах і ў могільніках знойдзены прылады працы з крэменю, каменю, бронзы, зброя, упрыгожанні. Сярод прылад працы з крэменю нажы, клінападобныя тапары, скрабкі, трохвугольныя з выемкай наканечнікі стрэл, наканечнікі дроцікаў і інш. Насельніцтва выраблялa посуд двух тыпаў: кухонны і сталовы. Сярод яго гаршкі, амфары, кубкі, слоікі, чашы з шарападобным, акруглым і слоікападобным туловам, яйкападобным і сплюшчаным дном, прамым і адагнутым венчыкам, а таксама вялікія пласкадонныя пасудзіны з выпуклым туловам і прамой адагнутай вонкі шыйкай, пазней — разнастайныя гаршкі з высокай і кароткай адагнутай шыйкай, выпуклым туловам, часам з патаўшчэннем пад краем венчыка (посуд з дамешкамі пяску, шамоту і дробнага кварцу ў гліне). Верхнюю частку пасудзін звычайна ўпрыгожвалі адбіткамі шнура, лінейнага і зубчастага штампа, наразнымі лініямі, пазногцевымі ўціскаппямі, зашчыпамі і інш., якія ўтваралі гарызантальныя і дыяганальныя рады арнаментаў, трохвугольныя вяршынямі ўніз кампазіцыі. Сярод упрыгожанняў медныя і бронзавыя дыядэмы, шыйныя грыўні, бранзалеты, трубчатыя пранізкі, скроневыя кольцы, бурштынавыя падвескі падоўжана-авальнага, круглага, трапецападобнага тыпаў. *А. Г. Калечыц.*

**СЯСТРА́,** кожная з дачок у адносінах да іншых дзяцей гэтых жа бацькоў.

**СЯСТРА́НКА,** дваюрадная сястра. Называлі таксама сяструнка.



**ТАВАРЫ́СТВА ВЫВУЧЭ́ННЯ МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕ́РНІ,** гісторыка-краязнаўчае таварыства, што існавала ў 1902—16. Заснавана ў Магілёве па ініцыятыве Е. Р. Раманава пад назвай «Таварыства вывучэння Беларускага краю». Мела статут (зацверджаны ў сак. 1905). У сувязі з утварэннем гісторыка-краязнаўчых т-ваў у Віцебску, Мінску і інш. гарадах у сак. 1913 рэарганізавана ў Т. в. М. г. Члены таварыства: Раманаў, І. А. Сербаў, А. П. Сапуноў, М. М. Турбін. Вывучала гісторыю, этнаграфію і прыроду Беларусі, пераважна Магілёўскай губ. Выдала працу Раманава «Першакрыніцы для гісторыі Магілёўскага краю» (вып. 1, 1916), у якую ўвайшлі «Баркалабаўскі летапіс» і «Падарожныя заметкі стольніка П. А. Талстога аб Магілёўскай губерні (1697—1699)». Падрыхтавала да выдання 4-ы выпуск зб. *«Могилевская старина»* і інш. У 1-ю сусветную вайну эвакуіравана ў Адэсу, дзе спыніла дзейнасць. *М. І. Камінскі.*

**ТАВАРЫ́СТВА СЯБРО́Ў НАВУ́К.** Існавала ў Вільні ў 1907—39. Мэта — даследаванне гісторыі, этнаграфіі і культуры, прыроды Літвы, Беларусі і Польшчы. У 1907—22 выдавала «Rocznik Towarzystwa...» («Штогоднік таварыства...»), у 1923—39 час. «Athenaeum Wileńskie» («Атэнэум віленскі»), дзе асвятлялася гісторыя зямель Вял. кн. Літоўскага, публікаваліся дакументальныя матэрыялы, бібліяграфія даследаванняў па гэтым пытанні. Змяшчаліся даследаванні пра мінулае Беларусі і гісторыю культуры яе народа. Т-ва стварыла бібліятэку (больш за 50 тыс. кніг, рукапісы пісьменнікаў, дзеячаў культуры), якой падораны рукапісы і бібліятэкі Я. Карловіча, Я. Шванскага, збор М. Федароўскага, Я. Французовіча, бібліятэка Э. Ажэшкі. Аснову калекцыі музея склалі зборы А. Заборскага, В. Шукевіча, Французовіча (фотаздымкі, малюнкі бел. адзення). Археалагічныя, этнагр. і гіст. экспанаты т-ва захоўваюцца ў Гісторыка-этнагр. музеі Літ. ССР, архіўныя матэрыялы ў ЦДГА Літ. ССР, кнігі — у б-цы АН Літ. ССР, калекцыі па мастацтву і нумізматыцы — у Мастацкім музеі Літ. ССР. *В. А. Цыбуля.*

**ТАКА́РНАЕ РАМЯСТВО́,** выраб рэчаў бытавога і мастацкага прызначэння на *такарным станку.* На тэр. Беларусі вядома з 11—13 ст., калі ў практыку ўвайшлі прасцейшыя такарныя станкі з лучковым ці колавым прыводам, тады ж вылучылася ў самастойнае рамяство. З дрэва і косці тачылі розныя дробныя прадметы (посуд, гузікі, шахматы, тронкі нажоў і інш.), нярэдка дадаткова аздаблялі гравіраваным арнаментам (гл. *Разьба па косці*). Бел. рамеснікі-токары Д. Паўлаў, К. Талкачоў, І. Мікіцін, С. Багданаў, Д. Какотка, І. Дракула, Ф. Гаўрылаў у 17 ст. працавалі ў Маскоўскім Крамлі, дзе выраблялі драўляныя дэталі мэблі і архітэктурнага ўбранства, шахматы, чарнільніцы, парахаўніцы са слановай косці. У 19—1-й пал. 20 ст. Т. р. пашырылася ў нар. побыце (у многіх выпадках мела прыкладное значэнне — як дапаўненне ў цяслярстве сталярным і стальмашным рамястве). Т. р. нярэдка займаліся цэлыя вёскі. Тачылі сталовы посуд (міскі, талеркі, ступкі, сальніцы, бочачкі), бытавыя прадметы (попельніцы, люлькі, падсвечнікі, бязмены, цацкі), вытворчыя прылады (калаўроты, верацёны, дэталі да кроснаў), дэталі мэблі, транспартных сродкаў, архітэктурнага аздаблення і інш. Асноўны матэрыял — драва розных парод, пераважна бяроза, дуб, ліпа. Для дробных вырабаў мастацкага характару выкарыстоўвалася драўніна з прыгожым натуральным колерам і малюнкам

слаёў — бяроза-чачотка (карэльская бяроза), груша, ядловец і інш. Такарныя вырабы ў працэсе вытворчасці дадаткова аздаблялі рознымі паяскамі і канаўкамі; нярэдка іх паліравалі, таніравалі, упрыгожвалі разьбой ці гравіраваннем. У наш час Т. р. займаюцца нар. майстры А. Рабцаў (Гомель), І. Міропчык (Барысаў), В. Ягела (в. Страча Астравецкага р-на), В. Альшэўскі (в. Будслаў Мядзельскага р-на) і інш., развіваецца яно пры некаторых фабрыках маст. вырабаў (Магілёўскай, Слонімскай), на Брэсцкай ф-цы сувеніраў. *Я. М. Сахута.*

**ТАКАРНЫ СТАНО́К,** прылада для абточвання дрэва, металу і інш. матэрыялаў (гл. *Такарнае рамяство*). Вядомы з 10—11 ст. Прынцып дзеяння заснаваны на апрацоўцы разцом загатоўкі (з дрэва, косці і інш.), прыведзенай у вярчальны рух. Найб. даўні і пашыраны Т. с. уяўляў сабою дзве стойкі з метал. стрыжнямі, між якімі заціскалі загатоўку. Вярчальны рух ёй надаваў шнур (вяроўка, рэмень), што ахопліваў загатоўку і адным канцом мацаваўся ўверсе, да спружыністага рычага (жэрдкі, заткнутай за бэльку), другім — да дошкі, што ляжала на падлозе. Наступаючы нагой на дошку, прыводзілі ў вярчэнне загатоўку і апрацоўвалі яе прасцейшым разцом (нажом, долатам). Дробныя вырабы (верацёны) выточвалі на ручным варыянце Т. с. з лучковым прывадам (смыком). У 19—1-й пал. 20 ст. пашырыліся Т. с. з колам-махавіком на восі і педальным прывадам, рознымі прыстасаваннямі для выканання складаных такарных работ. У сярэдзіне 20 ст. самаробныя Т. с. выйшлі з ужытку. *Я. М. Сахута.*



Такарны станок.

**ТАКЕЛА́Ж** (галанд. takelage), сукупнасць снасці судна, плыта (канаты, ветразі, якары, вёслы і інш.).

**ТАЛАКА,** даўні народны звычай калектыўнай дапамогі ў гаспадарчых работах у беларусаў і інш. славянскіх народаў. Звычайна на адзін дзень запрашалі сваякоў, суседзяў, аднавяскоўцаў для тэрміновай ці працаёмкай работы, якая вымагала многа работнікаў і цягла: зрубіць хату, скасіць сена, зжаць жыта, выбраць бульбу, вывезці лес, гной на поле і інш. Памагалі найперш пагарэльцам, удовам, салдаткам, бясконным. Т. звычайна заканчвалася застоллем, спяваннем талочных песень. У Т. выяўляюцца рысы стараж. калектывізму і рэшткі абшчыннага побыту. У час прыгону паны выкарыстоўвалі нар. звычай і ўводзілі прымусовыя Т. для выканання тэрміновых с.-г. работ звыш абавязковых сялянскіх павіннасцей, т. зв. згоны, гвалты.

**ТАЛАКНО́,** даўняя страва з аўса. Авёс спачатку парылі: насыпалі зерне ў чыгун, залівалі вадой і ставілі ў печ парыцца, пакуль не выкіпіць вада. Як печ выпаліцца, на вымецены чарэнь высыпалі авёс і сушылі. Потым яго абтоўквалі ў ступе, палалі ў начоўках, малолі ў жорнах, прасейвалі на густое сіта. Перад спажываннем муку разводзілі халоднай вадой. На ПнЗ Беларусі Т. замешвалі большай колькасцю вады і елі лыжкамі; на Пд — замешвалі гусцей і елі грудкамі. Казалі: «Талакно да хлеба як сала». На Віцебшчыне, Пн Лоеўшчыны Т. называлі прыгатаваную такім чынам муку. У зах. і паўн.-зах. гаворках мае назву мілта. *Г. Ф. Вештарт.*

**«ТАЛАКНО́»,** імправізаваны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Выконваюць «Т.» выключна мужчыны; яны танцуюць па аднаму ў крузе хто як можа. Танец суправаджаецца кароткай песенькай, якая і дала назву танцу: «Тры дні хаты не мяла, // Печы не тапіла. // Мужа з ранняга ўтра // У горад правадзіла. // Два лукошкі талакна // Прадала суседу // Ды купіла штоф віна, // Завяла бяседу...». Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Рагачоўскім раёне.

**«ТАЛАКУ́ХА»,** старадаўні традыцыйны танец. Называлі таксама «Талака». Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Атрымаў назву ад звычаю «граць талаку» — весяліцца, спяваць і танцаваць пасля заканчэння *талакі*. Асноўным рухам танца было «талачэнне» — таптанне на месцы з рознымі рытмічнымі прытупамі і драбушкамі. Масавы кругавы танец, у якім два кругі (адзін у другім) рухаліся ў розныя бакі і ўдзельнікі пераходзілі са знешняга круга ва ўнутраны і наадварот. «Т.» зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гомельскай вобл. П. М. Шпілеўскі ў кн. «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» (1853) запісаў іншы варыянт «Т.». На дажынкі выбіралі адну з дзяўчат «багіняй», давалі ёй вянок з апошніх каласоў жыта, упрыгожаны кветкамі і стужкамі, акружалі яе і з дажыначным снапом у руках, пакрытым белым пакрывалам, ішлі ланцугом, спявалі і танцавалі. «Т.» пачынала «багіня», якая круцілася наперадзе, а астатнія дзяўчаты, стоячы паўкругам, тупалі нагамі, падскоквалі, не выходзячы са свайго месца, і размахвалі хусткамі. Потым усе дзяўчаты даганялі «багіню», акружыўшы яе, кланяліся ёй, а яна, седзячы на зямлі, спявала пра сонейка, пра дождж, прасіла камарыкаў, каб яны не кусалі. *Ю. М. Чурко.*

**ТАЛЕ́РКІ,** самагучальны саўдарны музычны інструмент. Уяўляе сабой 2 аднолькавыя або розныя па велічыні металічныя дыскі з пукатасцю пасярэдзіне, у цэнтры якой — невялікая круглая адтуліна для прасоўвання рэменя, за які трымаюць Т. Найчасцей Т. выкарыстоўваюць як састаўны канструкцыйны элемент пашыранага на Беларусі турэцкага *барабана*, у якім адна талерка замацоўваецца пукатасцю ўніз на металічным стрыжні, і музыкант б'е па ёй другой талеркай або драўлянай палачкай. Пры гэтым узнікае моцны і яркі гук. Паявіліся Т. хутчэй за ўсё ў 18 ст. спачатку ў гарадскім побыце разам з «янычарскай музыкай», а потым пашырыліся ў вёсках. Выраблялоць Т. мясцовыя кавалі. Інструмент уваходзіць у склад ансамбляў, пры выкананні танцаў і вясельных маршаў адыгрывае ўдарна-рытмічную і каларыстычную функцыі. *І. Дз. Назіна.*

**ТАЛІСМА́Н** (ад познагрэч. télesma пасвячэнне, чары), рэч, якая, паводле ўяўленняў прымхлівых людзей, прыносіць яе ўладальніку поспех, удачу, шчасце, засцерагае ад небяспекі. Вера ў Т. (*амулеты*) узнікла ў першабытнага чалавека, які імкнуўся ўплываць на непазнаныя, невядомыя яму сілы прыроды. Часцей за ўсё Т. выкарыстоўваюць людзі, прафесія якіх звязана з пэўнай небяспекай, рызыкай для жыцця (лётчыкі, вадалазы, рыбакі, шафёры і г. д.). Некаторыя рэчы-Т. (падкова над уваходам у дом) выступаюць як сімвалы дабра, міру. З гэтай мэтай веруючыя носяць крыжыкі, абразкі, ладанкі. *Л. І. Мінько.*



Талеркі.

**«ТА́НЕЦ З БУТЭ́ЛЬКАЙ»,** імправізаваны сольны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Выконвалі пераважна на вяселлі. Танцоры, часцей за ўсё мужчыны, трымаючы напоўненую вадой бутэльку дзвюма рукамі на ўзроўні грудзей, выконвалі прысядку па першай і другой пазіцыях; пры гэтым стараліся танцаваць так, каб вада з бутэлькі не вылівалася. Танцоры спаборнічалі паміж сабой — уключалі ў танец розныя складаныя элементы. Так,

напр., у час выканання прысядкі найбольш лоўкія падскоквалі ўгору і адначасова ўдаралі абцасам аб абцас. У канцы танца выканаўца ваду выпіваў, а бутэльку разбіваў. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гродзенскай вобласці. *С. У. Клімовіч.*

**ТАПТУ́ХА,** традыцыйная рыбалоўная снасць; рухомая пастка. Іншыя лакальныя назвы таптун, кош, баўтуха, сетка. На Беларусі бытавалі некалькі відаў Т.; выкарыстоўвалі зробленую з прутоў, сеткавую на драўляным каркасе і сеткавую на абручах. Плеценая з прутоў Т., верагодна, найбольш старажытная. Уяўляла сабой кош, зроблены ў форме паўконуса; часта мела палку-ручку, што мацавалася ў 2 месцах да ўваходнага абруча. Часам замест палкі прывязвалі вяроўку (адным канцом да ўваходнага абруча, другім — у месцы, дзе сыходзіліся падоўжаныя пруты). Сеткавая на драўляным каркасе Т. па форме падобна да плеценай. Каркас складаўся з уваходнага абруча ў форме паўкруга і прымацаваных да яго прутоў, канцы якіх сыходзіліся. Сеткавая на абручах Т. найбольш дасканалая па канструкцыі і зручнейшая ў эксплуатацыі. Яе каркас складалі толькі абручы: першы ў форме паўкруга, наступныя 4—6 — круглыя (пры набліжэнні да глухога канца сеткавага мяшка іх памеры памяншаліся). Пастаянная форма снасці захоўвалася з дапамогай дугападобнай ручкі, адзін канец якой прымацоўвалі да ўваходнага абруча, другі — да глухога канца сеткавага мяшка. Рыбачылі ўсімі відамі Т. у зарослых месцах вадаёмаў: прытаплялі да дна і, боўтаючы нагамі ці невялікім шастом, заганялі рыбу ў пастку. Лоўля рыбы Т. вядома па ўсёй Беларусі. Найбольш пашырана сеткавая Т. на каркасе. Плеценая і сеткавая на абручах Т. характэрны для рыбалоўства Палесся. Вядома Т. і інш. слав. народам (палякам, украінцам). У некаторых мясцовасцях Т. называлі *сак* невялікіх памераў. У наш час лоўля Т. забаронена. *І. М. Браім.*

**ТАРАНТА́С,** выязны чатырохколавы экіпаж для коннай запрэжкі, прыстасаваны для камфортнай пасажырскай язды; тое, што і *брычка.*

**ТАРТА́К,** тып пільні, на якой з дапамогай вады бярвёны распілоўвалі на дошкі і брусы (пілеными на Т. дошкі называліся тарціцамі). У інвентарах 16 — пач. 20 ст. Т. зафіксаваны ў панскіх сядзібах і фальварках. Ставіліся на рэках, працочных азёрах, ставах. Па прынцыпу работы аналагічны мукамольнаму млыну, толькі замест настава з жорнаў была піла-цыркулярка або піла-пастаў са зваротна-паступальным рухам. Т. нярэдка будавалі ў комплексе з мукамольнымі млынамі. Існавалі Т. і ў складзе мукамольнага млына (адно кола прыводзіла ў рух жорнавы пастаў, другое — пілу). У 2-й пал. 19—20 ст. Т. называлі ўвогуле любую лесапільню. *Ю. А. Якімовіч.*

**ТАТА́РЫ,** нацыя; у Татарскай АССР жыве 1 млн. 642 тыс. чал.: у СССР — 6 млн. 317 тыс. (перапіс 1979). На Беларусі прадстаўлены асобнай этнічнай групай (10 031 чал., перапіс 1970).

Продкі Т. з'явіліся на тэр. Вял. кн. Літоўскага ў 14 ст. Першапачаткова сяліліся дысперсна асобнымі слабодамі каля Вільні, Гродна, Ліды, Навагрудка, Крэва. Да пач. 16 ст. колькасць іх налічылася да 100 тыс. чал. Вялікія князі Гедымін, Вітаўт і інш. запрашалі Т. з Залатой Арды і Крыма, выкарыстоўвалі іх у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. Тут знаходзілі прыстанак збеглыя ханы і прэтэндэнты на ханскі трон. Сюды ў 1394 пасля паражэння ад Цімура адступіў вялікі хан Тахтамыш са сваёй дружынай. Гасцінна прыняты Вітаўтам, ён пасяліўся ў Лідзе. У выніку паспяховага паходу Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў (1397) у рукі пераможцаў трапіла багатая здабыча і шмат ваеннапалонных Т., апошнія былі паселены каля Вільні, у Лідскім, Ашмянскім, Навагрудскім, Брэсцкім пав., атрымалі правы грамадзянства. Вітаўт імкнуўся выкарыстаць Тахтамыша і ў барацьбе з Маскоўскай дзяржавай. Т. прымалі ўдзел у Грунвальдскай бітве (1410). Разам з тым нярэдкія набегі татарскіх ордаў з поўдня парушалі нармальны гаспадарчы рытм насельніцтва Беларусі, суправаджаліся рабункамі і забраннем у палон мірных жыхароў. У 1506 князь Міхаіл Глінскі прыпыніў чарговы набег крымскіх Т. і разбіў іх на р. Лань каля Клецка; значная колькасць палонных была паселена ў наваколлі Клецка і ў Мінску, дзе яшчэ ў пач. 20 ст. існавала Татарская слабада (цяпер раён Гвардзейскай вуліцы).

Татарскія пасяленцы на Беларусі доўгі час захоўвалі сваю сацыяльна-племянную арганізацыю, традыцыйныя звычаі, абрады, вераванні і адрозніваліся ад мясцовага насельніцтва асаблівасцямі матэрыяльнай культуры. Па сацыяльна-прававым становішчы большую частку бел. Т. складалі ваеннаслужылыя (зямяне), якія юрыдычна былі прыраўнаваны да шляхты. Яны атрымлівалі за службу зямлю, якая заставалася ў спадчынным карыстанні. Сярод ваеннаслужылых вылучаліся саслоўна-родавыя вярхі — князі (бекі і мурзы) і ўланы, што мелі сваю прыслугу, цяглых сялян нехрысціянскай веры, путных і панцырных слуг (баяр). Другую частку Т. складалі беззямельныя нашчадкі ваеннапалонных і збеглых ясачных людзей. Яны жылі пераважна ў гарадах і мястэчках, займаліся апрацоўкай скур, рымарствам, шавецкай, кравецкай справай і інш. дробным гандлем, рамізніцтвам, агародніцтвам, жывёлагадоўляй.

З 2-й пал. 17 ст. ў татарскім асяроддзі знікаюць племянныя адрозненні, татарскія пасяленцы ўсё часцей прымаюць бел. прозвішчы: Кандратовічы (нашчадкі племя кунгратаў), Бараноўскія (нашчадкі роду Барын), Александровічы, Гембіцкія, Карыцкія, Расіцкія, Смольскія і інш. Знікла і асобая татарская адміністрацыя — харунжыя (ваенныя), маршалкі (земскія), кадзі (суддзі). У асяроддзі бел. насельніцтва Т. страцілі сваю родную мову (кыпчакская група цюркскіх моў) і карысталіся бел. ці польскай; на бел. мове арабскім пісьмом пісаліся кітабы (кнігі). Разам з тым яны захавалі рэлігію — мусульманства суніцкага толку, хоць прытрымліваліся манагаміі; шлюбы па мусульманскім абрадзе заключаліся толькі з прадстаўнікамі сваёй канфесіі. У 19 ст. на Беларусі дзейнічала да 15 мячэцей (Мінск, Навагрудак, Гродна, Слонім, Мір, Клецк, Іўе і інш.), дзе служылі татарскія мулы, якія падпарадкоўваліся Крымскай (Таўрычаскай) муфтыі. Частка бел. Т. прыняла хрысціянства і асімілявалася, але захоўвала самабытныя рысы ў гаспадарчым жыцці, хатнім побыце, нар. адзенні (гл. *Давыд-гарадоцка-тураўскі строй*). У 2-й пал. 19 ст. адносна кампактныя групы Т. жылі ў Слуцкім, Навагрудскім, Ігуменскім, Ашмянскім, Брэсцкім, Пружанскім, Вілейскім паветах. Жытло Т.-вяскоўцаў мала адрознівалася ад мясцовага беларускага. Яно падзялялася на 2 палавіны: чыстую (святліца, грыдніца), што служыла для прыёму гасцей і розных урачыстасцей, і чорную (гаспадарчую), дзе жылі гаспадары. Святліца мела драўляную падлогу і вокны больших памераў, сцены бялілі, нярэдка і размалёўвалі ўзорыстым арнаментам з тэкстамі на татарскай і арабскай мовах. Прадметам асаблівай увагі і клопату татарскіх жанчын была пасцель, што складалася з пярын, пуховых падушак, цёплай прашыванай коўдры яркага колеру. Сядзібы Т. былі заўсёды абгароджаны, мелі кветнік, агарод з фруктовымі дрэвамі і пладова-ягаднымі кустамі. Этнічнымі прыкметамі вылучалася і жаночае адзенне, яму былі ўласцівы яркая каляровая гама, архаічны галаўны ўбор тыпу галовачкі, багатыя нагрудныя ўпрыгожанні. Паўсядзённы абутак Т.— боты, жанчыны насілі чаравікі з чырвонымі ці жоўтымі абцасамі. У наш час этнакультурныя адрозненні паміж Т. і бел. насельніцтвам амаль зніклі. *В. С. Цітоў.*

**ТАТЭМІ́ЗМ** (на мове паўн.-амер. індзейцаў аджыбве от-атэм — літар. яго род), сукупнасць фантастычных уяўленняў, абрадаў і звычаяў, заснаваных на веры ў звышнатуральную роднасць паміж групай людзей (родам) і т. зв. татэмам — пэўным відам жывёл, раслін, радзей з'явай прыроды і інш. Т. найбольш характэрны для ранняй стадыі абшчынна-родавага грамадства. Членам роду забаранялася паляваць на татэмную жывёлу, есці яе мяса (за выключэннем татэмных свят),

заключаць паміж сабою шлюбы. Састаўная частка Т.— міфы-паданні пра фантастычных продкаў роду (паўлюдзей-паўжывёл), пра іх вандраванні,ператварэнні ў камяні, птушак і г. д., у якіх расказвалася пра ўзнікненне роду. Змест такіх міфаў быў асновай абрадавых дзеянняў у час татэмных свят, што суправаджаліся песнямі і танцамі (у танцы, як правіла, імітаваўся вобраз і звычкі татэма). У кожнага члена родавай групы была татэмічная эмблема — невялікі плоскі камень або драўляная авальная дошчачка, упрыгожаная малюнкамі ці разьбой у выглядзе канцэнтрычных кругоў, спіралей, кропак. З Т. генетычна звязаны некаторыя міфы, казкі, абрады (напр., абрад пераапранання ў час калядавання) у беларусаў і інш. народаў. *М. Ф. Піліпенка.*

**ТАЎКАНІЦА,** тоўчаная бульбяная каша. Называлі таксама таўпеня. Чышчаную бульбу вараць, адцэджваюць, таўкуць, засквраваюць салам з цыбуляй. Ядуць з малаком, агуркамі, капустай. Часта з Т. рабілі *камы*. Вядома паўсюдна, а пад назвай Т.— на Гродзеншчыне, Палессі. З Т. рабілі таўчонікі — галушкі, якія падсмажвалі ў масле, тлушчы або абкочвалі ў канапляным семі і падсмажвалі ў печы. *Г. Ф. Вештарт.*

**ТАЎКА́Ч,** тоўстая доўгая палка з паўкруглымі канцамі, якой таўкуць штонебудзь. Даўжыня 90—110 см. Для зручнасці трымання пасярэдзіне рабілі выемку ці выдзёўбвалі адтуліну. Т. называюць таксама прыладу ў выглядзе качалкі з патоўшчаным круглым канцом.



Тачыла.

**«ТАЎКА́ЧЫКІ»,** старадаўні традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп ад умеранага да жвавага. Імітуе працэсы абівання і таўчэння зерня ў ступе. Найбольш стараж. варыянт «Т». уяўляў сабой сольны імправізаваны танец, у якім выканаўца з двума таўкачыкамі ці кіямі ў руках імітаваў працоўны працэс: пастукваў кіямі, прытупваў і прыпяваў: «Таўкачыкі — чыкі-чыкі, // таўкачыкі — чыкі-чыкі» або «Таўкачыкі, таўчыцеся, // Багатыя, жаніцеся. // А бедныя-та дзе будуць, // Калі хлеба раздабудуць?» (Брэстчына). Часам выканаўцы падскоквалі як мага вышэй, уставалі на рукі. Шырокае распаўсюджанне атрымаў варыянт «Т.», што выконваўся на крыжы, які ўтваралі дзве накладзеныя на падлогу доўгія лучыны, вілы і чапяла або простыя кіі. Адзін або пара танцораў перасковалі (стараючыся не закрануць кія) у рытме музыкі з квадрата ў квадрат самымі рознымі спосабамі: падэ-баскам, на адной ці дзвюх нагах, з адной нагі на другую і інш. Танцы на крыжы, падобныя на «Т.», бытавалі ў розных рэгіёнах Беларусі: «Лучыніца», «Заёнец», *«Магера»*, а часам і *«Мікіта»*. «Т.» найбольш пашыраны ў Віцебскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей. *Ю. М. Чурко.*

**ТАЦІ́ШЧАЎ** Васіль Мікітавіч [19(29).4.1686, каля Пскова — 15(26).7.1750], рускі дзяржаўны дзеяч, гісторык. Скончыў у Маскве Інжынерную і артылерыйскую школу. З 1704 на вайсковай службе. Удзельнік Паўночнай вайны 1700—21. У 1720—22 і 1734—37 кіраўнік казённых заводаў на Урале. У 1741—45 астраханскі губернатар. Падрыхтаваў першую рускую публікацыю гіст. крыніц, увёў у навуковы абыходак тэксты «Рускай праўды» і Судзебніка 1550, некаторыя стараж.-рус. летапісы, паклаў пачатак развіццю ў Расіі этнаграфіі, крыніцазнаўства. Яго галоўная праца — «Гісторыя Расійская з самых старажытных часоў» (т. 1—5, 1768—1848) — збор рус. і замежных летапісных і інш. крыніц, стараж. частка якіх, у т. л. Полацкі летапіс, не збераглася. Па ёй удакладняюць і дэталізуюць многія падзеі, асабліва з гісторыі Беларусі (час заснавання некаторых гарадоў, паходжанне назвы «Белая Русь» і герба Вял. кн. Літоўскага — «пагоні» і інш.). Т. належыць вялікая заслуга ў распрацоўцы анкетнага метаду збору разнастайных матэрыялаў. У разасланых ім у 1734 і 1737 анкетах значнае месца адводзілася этнаграфіі. Частка анкет была распаўсюджана і на Беларусі. Аўтар першага рус. энцыклапедычнага слоўніка «Лексікон расійскі» (ч. 1—3, 1793, да літары К).

*Тв.:* История Российская. Т. 1—7. М.; Л., 1962—68. *М. І. Ермаловіч.*



Гарызантальны **ткацкі стан** рамны. Слуцкі павет.

**«ТАЦЦЯ́НКА»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Выконваўся дзвюма парамі. У в. Галачэва Чавускага р-на экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці зафіксаваны варыянт «Т.», у якім дзве пары выканаўцаў, стоячы адна насупраць другой, выконвалі серыю хуткіх і дробных прыпаданняў да зямлі ў сінкапіраваным рытме, увесь час змяняючы ракурсы цел. У канцы танца пары мяняліся месцамі. Пры гэтым спявалі: «Жаль жа мне да Таццянку, // Жаль жа мне да яе. // Заездзіў я пару коней, // Ездаючы да яе». Першыя два радкі песні паўтараюцца ў пачатку кожнага куплета. *Ю. М. Чурко.*

**ТАЧЫ́ЛА,** станок для навострывання лёзаў рэжучых інструментаў. Складаецца з круглага тачыльнага каменя, драўлянага стана — станіны на чатырох ножках і паддона з вадой. Тачыльны камень прыводзіцца ў дзеянне ручкай

(корбай), замацаванай глуха ў яго цэнтры і свабодна ў бакавінах станіны.

**ТКА́ЦКІ СТАН**, прыстасаванне для вырабу тканін у хатніх умовах. Прататыпам Т. с. лічаць спецыяльныя квадратныя дошчачкі з дзіркамі на чатырох вуглах, у якія прапускалася аснова. Пры паварочванні дошчачкі злева направа ў аснове ўтвараўся зеў для прапускання ўтку (вядомы ў эпоху неаліту). У канцы 19 — пач. 20 ст. пры дапамозе такіх дошчачак ткалі паясы (гл. *Ткацтва паясоў*). Для вырабу тканін служылі 2 тыпы Т. с.: вертыкальны і гарызантальны. Аснову вертыкальнага стана (для вырабу дываноў) складалі два навоі — верхні, прымацаваны да столі, з асновай і ніжні для тканіны. Вядомы таксама вертыкальны стан з бакавымі апорамі ў выглядзе рамы. На гарызантальным Т. с. выраблялі палатно, тканіны для адзення, а таксама багата арнаментаваныя абрусы, посцілкі, ручнікі і інш. У канцы 19 — пач. 20 ст. былі вядомы некалькі разнавіднасцей Т. с. Найбольш старажытны і прымітыўны — стан без бакавых станін («на сохах»). Асаблівасць яго — тое, што абодва навоі мацаваліся на падстаўках — слупках вышынёй 80—85 см, дыяметрам 35—40 см, укапаных у земляную падлогу развілкай уверх (быў вядомы на У і ПдУ Беларусі). Больш удасканалены Т. с. са ставамі («стацівамі»). Ставы рабілі са ствала дрэва, выкапанага з каранямі, якія служылі ножкамі. Навой з асновай прымацоўвалі да лавы (цэнтр. і ўсх. раёны) або на невялікіх рагульках, размешчаных на ставах (ПдЗ). Ніты, як і ў станах «на сохах», мацавалі да столі. Самым пашыраным быў рамны Т. с., аснову якога складала рама з 4 падставак, злучаных унізе папярэчнымі. Ставы з боку ніцянога навоя заканчваліся стойкамі вышынёй 130—140 см. На вышыні 75—80 см у іх рабілі зарубкі, куды закладвалі навой з асновай. Верхнія канцы стоек заканчваліся гарызантальна ўмацаванымі планкамі з пеpакладзінай (паднебнікам), на якія падвешвалі ніты. У 2-й пал. 19 ст. атрымаў распаўсюджанне тэхнічна больш удасканалены Т. с.— *варштат*. У сучасным хатнім ткацтве выкарыстоўваюць пераважна



Гарызантальны **ткацкі стан** са ставамі. Магілёўскі павет.



Гарызантальны **ткацкі стан** са ставамі. Мазырскі павет.



Гарызантальны **ткацкі стан** «на сохах». Бабруйскі павет.



Гарызантальны **ткацкі стан** рамны. Полацкі павет.

рамны стан і варштат. Т. с. з навітай асновай называецца *кроснамі*.

*Г. М. Курыловіч.*

**ТКА́ЦТВА,** выраб тканін на *ткацкім стане* або спецыяльным прыстасаванні з перапляценнем ніцей *асновы* і *ўтку*. Нар. Т. Беларусі ўключае выраб тканін на гарызантальным ткацкім стане, а таксама *ткацтва паясоў*.

Сыравінай для Т. на Беларусі здаўна служылі *лён, воўна,* радзей *пянька*. Усе працэсы, звязаныя з апрацоўкай сыравіны і падрыхтоўкай яе да ткання, выконваліся ўручную — звычайна гэта была жаночая работа. У кастрычніку лён мялі, трапалі, часалі, у лістападзе пачыналі прасці. Пралі пры дапамозе верацяна або калаўрота на працягу ўсяго тыдня за выключэннем святочных дзён і нядзелі. Затым пражу рыхтавалі для ткання: бялілі або фарбавалі, снавалі (гл. адпаведныя арт., напр., *Бяленне*). У сакавіку, калі дзень павялічваўся, у хату прыносілі ставы і ўвесь папарад (ніты, бёрда, набіліцы, панажы і інш.). У наладцы красён і Т. звычайна ўдзельнічалі 2—3 жанчыны. Тонкае кужэльнае палатно ткалі для намітак і кашуль. матэрыял для рукавоў натыкалі паскамі бранага ўзора — папярочнымі ў верхняй частцы і па ўсяму полю рукава або падоўжнымі (гл. *Бранае ткацтва*). Тканіны для жаночага паяснога адзення ткалі пераважна ў 2 ніты (гл. *Двухнітовае ткацтва*), радзей у 3, 4 і больш; на ПдЗ часам спалучаліся бранае і *чатырохнітовае ткацтва*. Суконныя і паўсуконныя тканіны выраблялі для андарака, буркі, даматкана, а таксама нагавіц, льняныя — для палатняных спадніц, фартухоў і інш. З гэтых жа тканін шылі світы, буркі, сярмягі, армякі, насовы і балахоны. Тканіны для інтэр'еру былі больш разнастайнымі як па тэхнічных прыёмах, так і па аздабленню. Асаблівай прыгажосцю вылучаліся ручнікі, натыканыя браным узорам з традыцыйнымі спалучэннямі белага і чырвонага колераў і пераважна геаметрычным арнаментам (ромбы, крыжы і інш.), які размяшчаўся ў выглядзе папярочных паскаў. Выраблялі таксама і перабіраныя ручнікі з геаметрычным і раслінным арнаментам. Абрусы ткалі пераважна ў 4 і 8 нітоў (па неадбеленай аснове белым утком); былі вядомы таксама і ажурныя абрусы. Дэкаратыўныя посцілкі ткалі ў 4, 8 нітоў, а з 20 ст. шырокае распаўсюджанне набылі розныя віды *пераборнага ткацтва*. Тканіны для іншых патрэб (сеннікі, дзяругі, навалкі) ткалі звычайна з нізкаякаснай пражы ў 2—4 ніты.



Пераборнае **ткацтва.** Посцілка. Вёска Малая Воля Дзятлаўскага раёна.



Шматнітовае **ткацтва.** Ручнік. Рагачоўскі раён.

На Беларусі Т. вядома з глыбокай старажытнасці, пра што сведчаць археалагічныя знаходкі (прасліцы, адбіткі тканін на керамічных пасудзінах, многія з якіх датуюцца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э.). Характар перапляцення і якасць тканін 11—13 ст. (палатнянае, саржавае) даюць падставы сцвярджаць пра даволі высокі тагачасны ўзровень развіцця Т. Для вырабу тканін выкарыстоўвалі 4-нітовае прыстасаванне, якое, магчыма, было яшчэ без станін і нагадвала прыстасаванне для Т. паясоў (бердзечка). Чаўнакі і інш. дэталі гарызантальных ткацкіх станаў знойдзены пры раскопках у Гродне, Мінску, Полацку, Віцебску ў культурных слаях канца 11—13 ст. Удасканалены гарызантальны ткацкі стан з станінамі, нітамі і панажамі значна аблегчыў і паскорыў працэс Т., дазволіў вырабляць больш разнастайныя віды ўзорных тканін. Узораў стараж. тканін да нашага часу захавалася мала. Некаторыя звесткі пра іх дэкор даюць творы выяўленчага мастацтва. Напрыклад, на іконе «Раство Божай маці» 1649 П. Яўсеевіча з Галынца можна знайсці выявы тканін, арнамент якіх нагадвае ўзоры бранага Т.

Шматлікі і разнастайны этнагр. матэрыял па бел. нар. Т. адносіцца да канца 19 — пач. 20 ст. Тканіны гэтага перыяду адлюстроўваюць шлях развіцця, багаты мастацкі і тэхнічны вопыт ткацкага рамяства. Славянскія карані бел. Т. прасочваюцца ў тэхнічных прыёмах, якімі карысталіся нар. майстрыхі: пераважна 2- і 4-нітовая тэхніка, бранае і выбарнае Т., перабор «пад палатно»; у характары арнаментыкі, стараж. пласт якой уяўляе арнамент з гладкіх і шашачных рыпсавых палос, ромбагеаметрычны арнамент браных і выбарных тканін; у агульнасці асноўных кампазіцыйных прынцыпаў аздаблення адзення і ручнікоў, а таксама ў перавазе чырвона-белага каларыту.

## ТКАЦТВА

Разам з тым асаблівасці развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў у розных рэгіёнах, эканам. і культурныя кантакты з суседнімі народамі прывялі да разнастайнасці рэгіянальных і лакальных рыс традыцыйнага Т.

Рэгіёнам з найбольш устойлівымі рысамі стараж. самабытнай культуры бел. народа з'яўляецца Зах. Палессе. У Т. яны праявіліся ў параўнальнай прастаце і архаічнасці мастацкіх і тэхнічных прыёмаў, сярод якіх пераважаюць аднаўточнае 4-нітовае і двухуточнае бранае Т., а таксама ў мастацка-стылістычнай цэльнасці ўсяго комплексу тканых вырабаў, аснову якога складаў традыцыйны нар. касцюм.



Бранае **ткацтва.** Ручнік. Чачэрскі раён.

На Усх. Палессі нар. ткачыхі перавагу аддавалі ручнікам. У параўнанні з заходнепалескімі яны вызначаліся большай разнастайнасцю тэхнік выканання і арнаментыкі. Побач з браным Т. з канца 19 ст. ткачыхі выкарыстоўваюць 4-нітовае двухуточнае і 8-нітовае аднаўточнае Т., а пазней — розныя віды перабору з прыцiскной асновай. Усё гэта дазваляла рабіць больш разнастайнай арнаментыку ручнікоў і інтэр'ерных тканін.

Для тканін Падняпроўя характэрна яркая дэкаратыўнасць, арнаментальная насычанасць, выкарыстанне розных тэхнік ткання, сярод якіх найбольш развіта бранае двухуточнае Т. (натыкалі жаночае адзенне і ручнікі). На Пн і Пд рэгіёна для вырабу абрусаў выкарыстоўвалі і бранае аднаўточнае Т. У паўн. раёнах (Аршанскім, Дубровенскім) і далей з пераходам на тэр. Паазер'я з канца 19 ст. развіта *ажурнае ткацтва*, якое вядома ў сумежных рэгіёнах — Смаленшчыне, Пскоўшчыне, Наўгародчыне і Валагодчыне.

Узорнае Т. Паазер'я фарміравалася пад уплывам культурна-эканам. сувязей з прыбалтыйскімі землямі і паўн.-зах. раёнамі Расіі. Таму ў арнаментыцы паазерскіх ручнікоў, выкананых бранай двухуточнай тэхнікай, шмат падабенства з прыбалтыйскімі, паўн.-рускімі бранымі ўзорамі. Для іх характэрны дакладная графічная распрацоўка ўзору, ураўнаважанасць яго з фонам, умеранае выкарыстанне чырвонага колеру, што надае арнаменту лёгкасць і вытанчанасць. З канца 19 ст. ўзорнае Т. Паазер'я набыло новыя своеасаблівыя рысы. У гэты час на Беларусі на аснове дамашняга рамяства ўзніклі саматужныя ткацкія промыслы, якія выраблялі тканіны на продаж. Гэтаму садзейнічала стварэнне ў канцы 19 ст. шэрагу ткацкіх школ-майстэрань, мэтай якіх было павышэнне якаснага ўзроўню саматужнага Т. ў выніку ўкаранення больш дасканалага абсталявання (варштаты), выкарыстання новых тэхнік Т. (шматнітовае ткацтва, розныя віды перабору) і інш. Першая такая школа заснавана ў 1889 Г. Моль у маёнтку Юзэфінава Віцебскай губ. Новыя прыёмы ткання найбольш пашырыліся ў інтэр'ерных тканінах (посцілках і дыванах) і амаль не закранулі традыцыйны нар. касцюм. У выніку ўскладніліся арнаментальныя матывы, уведзены рапортныя кампазіцыі з разнастайнымі шашачна-геаметрычнымі ўзорамі, характэрнымі для рамізнага Т.

Т. Панямоння не вызначаецца такімі старажытнымі і ўстойлівымі традыцыямі. У канцы 19 ст. гэта быў рэгіён з адносна развітай прамысловасцю, у т. л. і тэкстыльнай. Толькі $^1/_5$ частка сялянскіх двароў мела ткацкія станы і забяспечвала сябе неабходнымі тканінамі. Таму замена традыцыйнага сялянскага касцюма адзеннем гарадскога тыпу адбылася тут значна раней, чым на астатняй тэр. Беларусі (толькі жаночае паяснае адзенне з характэрным стрыманым клятчатым і паласатым узорамі выраблялі і насілі яшчэ ў 1920—30-я г.). Папярочна-паласаты арнамент характэрны і для паўшарсцяных посцілак (пасякоў), якія найбольш распаўсюджаны на Гродзеншчыне.

Нар. Т. Цэнтральнай Беларусі ўвабрала ў сябе некаторыя рысы Т. суседніх рэгіёнаў. Як і Т. Паазер'я, яно зазнала значны ўплыў гарадской культуры. Традыцыйны жаночы касцюм захаваўся пераважна ў паўд. раёнах Міншчыны (Клецкі, Капыльскі, Слуцкі, Старадарожскі і інш.). Тут выраблялі пераважна спаднічныя тканіны, ткалі ручнікі, абрусы, посцілкі, прычым у пач. 20 ст. стала пераважаць рамізная тэхніка ткання.

У пач. 20 ст. традыцыйнае нар. Т., якое вызначалася лаканічнасцю закладных узораў, тонкай распрацоўкай бранага ромбагеаметрычнага арнаменту, яшчэ працягвала развівацца побач з новымі прыёмамі. Але ўжо ў 1930-я г.





**Ткацтва паясоў.** Перапляценне нітак пояса, тканага на дошчачках.

**Ткацтва паясоў.** Перапляценне нітак пояса, тканага на бердзечку.

хатняе Т. скарацілася. Паступова забываліся і традыцыйныя прыёмы аздаблення тканін, якія раней перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Пачало пераважаць Т. дэкаратыўных тканін інтэр'ернага прызначэння — посцілкі, дываны, ручнікі, у якіх выкарыстоўваліся новыя прыёмы нар. Т.— дэкаратыўны від ажурнага Т., разнастайныя віды перабору з прыціскной асновай і інш.

У наш час на Беларусі захаваліся традыцыйныя цэнтры нар. Т., якія працягваюць развіваць мясцовыя традыцыі (в. Неглюбка Веткаўскага, в. Моталь Іванаўскага р-наў). З традыцыйнымі тэхнікамі Т. працуюць і прафесійныя майстры-мастакі, якія выраб-

ляюць сцэнічныя касцюмы для прафесійных і самадзейных фальклорных калектываў. Лепшыя традыцыі бел. пар. Т. распрацоўваюць ткачыхі Слуцкай, Пінскай, Полацкай, Гродзенскай, Аршанскай, Гомельскай і Мазырскай фабрык мастацкіх вырабаў.

*М. М. Віннікава, Г. М. Курыловіч.*

**ТКА́ЦТВА ПАЯСО́Ў,** выраб паясоў з выкарыстаннем розных ткацкіх тэхнік з ільняных, шарсцяных, баваўняных ці сінтэтычных нітак. Вядома Т. п. на дошчачках, на бердзечку, на ніту, на кроснах. Т к а ц т в а н а д о ш ч а ч к а х. Традыцыйныя бел. паясы ткалі на 4—20 дошчачках (невялікія драўляныя квадратныя пласцінкі з 4 адтулінамі на вуглах). У кожную адтуліну дошчачак, зложаных адна да адной, працягвалі ніткі і замацоўвалі іх. Аснова падзялялася на 2 слаі, утвараючы зеў для ўтку (паварочваючы дошчачкі на 90°, ніткі асновы мянялі). Узор атрымліваўся ў залежнасці ад чаргавання каляровых нітак асновы, ад спосабу праборкі нітак у дошчачкі, а таксама ад павароту дошчачак у час ткання (іх можна паварочваць усе разам і ўразнабой, мяняючы напрамак павароту). Для арнаментыкі такіх паясоў найбольш характэрны падоўжныя каляровыя палоскі ў спалучэнні з дробнымі ўзорамі-вілачкамі. Бытавалі па ўсёй Беларусі (пераважна на Віцебшчыне, у паўн. раёнах Міншчыны, Магілёўшчыны). Т к а ц т в а н а б е р д з е ч к у. Бердзечка ўяўляе сабой драўляную пласціну памерамі 15×10 (30×15) см з ручкай або без яе, падзеленую шчылінамі на трасціны з адтулінамі пасярэдзіне. У шчыліны і адтуліны прапускалі ніткі, якія з аднаго канца замацоўвалі на якім-небудзь нерухомым прадмеце, а другі — на поясе ткачыхі. Ткалі падымаючы і апускаючы бердзечка і прапускаючы ўток. Узор атрымліваўся чаргаваннем каляровых нітак па аснове або ў выніку дадатковага выбару асобных нітак (для бранага ўзору ў шчыліны паміж трасцінамі прапускалі 2 ніткі — адну для фонавага палатна, другую для ўзору). Пры т к а ц т в е н а н і т у ніткі асновы падзяляюцца на 2 слаі, адзін з якіх звязваюць пятлёй, а на другім вяжуць ніт — ніцяныя петлі, замацаваныя на палачцы. Ткуць, мяняючы ніткі асновы пры дапамозе пятлі і ніта і дадаткова выбіраючы неабходныя ніткі. У залежнасці ад сноўкі атрымліваюцца падоўжныя (ніткі розных колераў чаргуюцца пучкамі) і папярочныя палоскі, узоры «сырнічкам», «гарошкам» (чаргуюцца ніткі двух колераў). Найбольш цікавыя падоўжна-паласатыя кобрынскія паясы. Браныя ўзоры (касая палоска, ромб, трохкутнік, разетка, крыжык і інш.) ткуцца на аснове, у якой чаргуюцца 2 ніткі аднаго колеру (для фону) і адна другога (для ўзору). Паясы, у якіх колькасць узорных нітак не перавышае 7—10 (шыр. да 2 см), на ўсёй Беларусі амаль не адрозніваюцца. Сярод паясоў з вялікай колькасцю ўзорных нітак (шыр. больш за 2 см) вылучаюцца капыльска-клецкія, магілёўскія, слонімскія паясы. Н а к р о с н а х паясы шыр. 7—20 см ткалі ў 2 (палатнянае) або ў 4 (саржавае ці ўзорыстае двухуточнае перапляценне) ніты. Пераважаў чырвоны колер, на канцах паясы аздаблялі гладкімі або ўзорыстымі палоскамі.

*В. І. Селівончык.*

**ТОК,** пляцоўка (звычайна гліняная) пасярэдзіне *гумна* для малацьбы. На Віцебшчыне і Пн Магілёўшчыны Т.



**Ткацтва паясоў** па дошчачках.



**Ткацтва паясоў** на бердзечку.



**Ткацтва паясоў** на ніту (палатнянае перапляценне).

называлі і само гумно. Паабапал Т. былі застаронкі (адгароджанае ад Т. месца ў гумне для складання неабмалочанага збожжа). Звычайна Т. ад застаронка аддзяляўся невысокім, на 2—3 бервяны або дошкі прыстаронкам. На Гродзеншчыне (Зэльвенскі і інш. раёны) над Т. мацавалі палаткі з жэрдак, дзе складвалі акалот (жытнія снапы пасля няпоўнага папярэдняга абмалоту). Т. рабілі шырокім (5—10 м) і доўгім (6—18 м). Жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, грэчку малацілі на Т. *цапамі* (звычайна ў 2—3 або ў 4—5 цапоў). Снапы раскладвалі калоссем адзін да аднаго ў 2 рады (у пастаць клалі 20—30 і больш снапоў). Прайшоўшы з цэпам пастаць 2—3 разы, малацьбіты пераварочвалі снапы на другі бок і малацілі. Потым развязвалі снапы і зноў малацілі. Пасля вытрасалі салому, звязвалі яе ў кулі, а зерне адсоўвалі ўбок і насцілалі новую пастаць. На Т. веялі абмалочанае збожжа. У канцы 19— пач. 20 ст. паявіліся конныя і ручныя малатарні.

*Л. І. Мінько.*

**ТО́РБА,** 1) невялікі мяшок з даматканай грубай тканіны з вочапкай для пераносу розных прадметаў. Называлася таксама кайстра. 2) Мяшок з сечкай і аўсом, што адзяваўся на галаву каню. 3) Мяшок старца як сімвал жабрацтва.

**ТО́РГАЛА,** нерухомы самаападны самалоў, пры дапамозе якога здабывалі пушных звяркоў: куніц, гарнастаяў, норак, вавёрак, тхароў. Рабілі Т. з 3—4 жэрдак непасрэдна ў лесе: на звярыных пераходах, ля вадапояў і ў месцах, якія часцей наведвалі звяры. Жэрдкі прымацоўвалі (дзве знізу, адну — зверху) да трох калкоў ці дрэў, што раслі побач. Верхняя ападная жэрдка (якую часта нагружалі дадатковым цяжарам) мацавалася пры дапамозе механізма насцярожвання ў прыўзнятым (пад вуглом) становішчы. Як толькі звярок датыкаўся да прынады, ападная жэрдка падала і забівала яго. *С. Ф. Цярохін.*

**ТРАКТ** (ням. Trakt ад лац. tractus літар. валачэнне, цягнэнне), 1) вялікая праезджая дарога, шлях, *гасцінец*. Т. злучалі важныя населеныя пункты, служылі для рэгулярных перавозак пасажыраў, грузаў і пошты, прагону жывёлы. Мелі станцыі (заезджыя двары — *корчмы*). Па Т. праганялі статкі жывёлы з паўднёвых (пераважна Чарнігаўскай, Палтаўскай, Екацярынаслаўскай) губерняў для забеспячэння харчамі Масквы, Пецярбурга і інш. гарадоў еўрапейскай часткі Расіі [Беларускі (Стара-Чарнігаўскі), Жытомірскі, Старадубскі і інш. Т.]. Для зручнасці прагону і выпасу жывёлы паабапал Т. былі спецыяльныя прыдарожныя палосы. З 19 ст. Т. з цвёрдым пакрыццём называліся шашой. 2) Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў некаторых ваяводствах Вял. кн. Літоўскага. Існавалі ў складзе бо́льшай, звычайна слаба асвоенай і адносна малалюднай тэрыторыі. Населеныя пункты Т. размяшчаліся каля гандлёвых дарог. У абязлюджаным войнамі Мсціслаўскім ваяводстве існаваў Крычаўскі Т., у Віцебскім — Себежскі Т.

*І. В. Карашчанка.*

**ТРА́МА,** бэлька, якую клалі па цэнтры ўдоўж хаты. Пры невял. памерах хаты дошкі столі апіраліся на падоўжныя сцены і Т. У вялікіх хатах на Т. клалі ўпоперак 3—4 *бэлькі*. Т. мела і канструкцыйнае прызначэнне і была адметнай асаблівасцю інтэр'ера хаты. Часам на ёй выразвалі памятныя надпісы (год будаўніцтва), розныя маст. ўпрыгожанні. Тарэц Т. знадворку выступаў за межы сцяны, дэкаратыўна апрацоўваўся і дапаўняў кампазіцыю гал. фасада хаты. У сучасным будаўніцтве Т. як канструкцыйны элемент не прымяняецца. *С. А. Сергачоў.*



**То́ргала.**



Узоры аздаблення **трамы** ў хатах.

**ТРАПЛО́,** прылада для ачышчэння (трапання) льнянога ці канаплянага валакна ад кастрыцы. Уяўляе сабой тонкую дошчачку шыр. 6—8, даўж. 40—45 см. На Беларусі бытавалі 2 асноўныя тыпы Т.— мечападобнае (пашырана па Пд, З і ў цэнтр. раёнах Беларусі) і лапатападобнае (на Пн і У). На тэр. ўсх. славян Т. вядома з 7 ст.



**Трапло:** мечападобнае (уверсе) і лапатападобнае.

**«ТРАСУ́ХА»,** старадаўні традыцыйны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп хуткі. Танцуюць сола і парамі. Асноўная пластычная тэма танца — патрэсванне рукамі, плячамі, усёй верхняй часткай корпуса. П. Я. Шпілеўскі называў «Т.» таксама «Пацірухай» і апісваў яе так: «...Звычайна становяцца дзве пары дзяўчат і хлопцаў: пакланіўшыся адно аднаму, пара дзяўчат, трасучыся ўсім целам і размахваючы рукамі, на пятках вырабляе розныя па і потым як быццам плыве насустрач пары хлопцаў, якія ў сваю чаргу пераступаюць наскамі ботаў, неяк скосу, з-пад казырка пазіраючы на плывучых дам; калі сыдуцца дзве пары, хлопнуць адно аднаму над вухам у далоні і па адным разыходзяцца ў розныя бакі, тупаючы нагамі і прыгаворваючы: «Вух я, да вух я!». Потым групуюцца ўсе пары разам і, пераплятаючыся рукамі, робяць кругі то ў адзін, то ў другі бакі; нарэшце расклапцываюцца адно з другім і хаваюцца ў натоўпе, нібы чакаючы выкліку ці новага запрашэння з боку хлопцаў» (Падарожжа па Палессі і Беларускім краі. Спб., 1858. С. 42). Цікавы варыянт бел. «Т.», запісаны ў 1930-х г. на Палессі, прыводзіць у сваёй кнізе «Вобразы рускай народнай харэаграфіі» (1964) сав. балетмайстар К. Галяйзоўскі. Ён звязваў назву «Т.» з нар. назвай ліхаманкі, а таксама з вядомымі ў слав. фальклоры 12 фантастычнымі істотамі — «трасавіцамі-плясавіцамі». Танец складаўся з 12 розных сольных імправізаваных танцаў, кожны з іх выконвала новая дзяўчына, якая імкнулася перадаць у ім характар адной з фантастычных плясавіц. У 19 ст. «Т.» амаль паўсюдна злілася з чэшскай *полькай,* запазычыўшы тыповыя для яе вярчэнні. Так з'явіўся новы харэаграфічны ўзор — «Полька-Т.», вельмі папулярная па ўсёй Беларусі, якая стала своеасаблівым апазнавальным знакам нацыянальнай харэаграфіі. *Ю. М. Чурко.*

**ТРАШЧО́ТКА,** самагучальны скрабалкавы музычны інструмент. Уяўляе сабой драўляны рабрысты валік з ручкай і драўлянай (або металічнай) з пласцінкай-язычком унутры рамкі. Пры вярчэнні ручкі рамка круціцца вакол валіка і пласцінка, саскокваючы з зубца на зубец, пранізліва трашчыць. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Т., зафіксаваная этнографамі ў розных рэгіёнах Беларусі, выконвала ў вясковым побыце самыя разнастайныя функцыі: пацяшальную, сігнальна-інфармацыйную, камунікатыўную, абрадавую і культавую. Вядома Т. як дзіцячая цацка і як гукавое прыстасаванне ў начных вартаўнікоў, якія з яе дапамогай «білі трывогу», апавяшчалі пра пажар,

склікалі на дапамогу, а таксама ў паляўнічых, якія пужалі з яе дапамогай зайцоў і ваўкоў (пры аблавах). Трэск Т. спадарожнічаў абраду «ваджэння казы» на *каляды* (нар. майстры, рыхтуючыся да гэтага свята, разам з калляднымі маскамі рабілі і Т.). У касцёлах Т. выкарыстоўвалі ў пост замест аргана і званочкаў. У наш час самаробныя Т. сустракаюцца рэдка. *І. Дз. Назіна.*







Трашчотка.

Труба.

**«ТРАЯ́Н»**, традыцыйны танец. Называлі таксама «Траяк», «Тройка». Выконваецца ўтрох. Мае некалькі варыянтаў. У адным — крайнія выканаўцы пачаргова «ныралі» ў варотцы, утвораныя рукамі двух другіх; у другім — усе тры выканаўцы, не разлучаючы рук, «ныраюць» пад рукі адзін аднаму; у трэцім — крайнія выканаўцы круцяцца вакол сябе пад рукой у цэнтральнага. Падобныя да «Т.» танцы бытавалі таксама пад назвамі «Кракавяк у тройках», «Гапачок у тройках», «Таўкачыкі ў тройках» і інш. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК амаль па ўсёй Беларусі. *Ю. М. Чурко.*

**ТРОІЦКІ** Аляксандр (1844, Пскоўская губ.—26.1.1887), беларускі этнограф і фалькларыст. Скончыў Пскоўскую семінарыю. З 1864 працаваў настаўнікам у Трокскім пав., у Радашковічах. У час. «Литовские епархиальные ведомости» надрукаваў працу «Уклад» (1875—76), у якой даследаваў сямейныя і некаторыя каляндарныя абрады жыхароў в. Гняздзілава Вілейскага пав. (цяпер Докшыцкі р-н), дзе служыў свяшчэннікам. Асаблівую ўвагу аддаваў вывучэнню нар. вераванняў, забабонаў. Пакінуў грунтоўныя апісанні радзін, вяселля, пахавання, памінальных абрадаў (стаўроў, асянін, радаўніцы і інш.) з песнямі, галашэннямі, прыказкамі. Адзначыў вялікую ролю асветніцкай дзейнасці сярод сялян (арт. «Сяло Гняздзілава», 1875). *У. А. Васілевіч.*

**ТРО́ЙЦА**, царкоўнае хрысціянскае свята, дастасаванае да старажытнага земляробчага свята *сёмухі*.

**ТРУБА́**, духавы амбушурны музычны інструмент. Вядома са старажытнасці. У нар. побыце беларусаў пашыраны Т. рознай формы з хвоі (абкручаныя бярostай) і бляхі: прамыя, канічныя, выгнутыя, з «каленам» накшталт горна. Даўжыня Т. вар'іруецца ад 1,3 да 2,5—3 м. Нярэдка яны маюць спецыяльнае прыстасаванне для губ — мушток. На Т. здабываюць гукі натуральнага гукарада. Звесткі пра Т. на Беларусі адносяцца да 12 ст. («Слова пра паход Ігаравы»). На працягу многіх стагоддзяў Т. выкарыстоўвалі як сігнальны інструмент, у час каляндарных абрадаў, у пастухоўскім, паляўнічым і ваенным побыце, часам для забавы. Спрактыкаваныя музыкі выконвалі на Т. полькі, вальсы, асобныя часткі кадрылі.

**ТРЫГУБІЦА**

Т. называлі таксама язычковы музычны інструмент конусападобнай формы, зроблены з кары асіны, вольхі, ліпы. Найгрыпы на такой Т.— рытмізаванае паўтарэнне аднаго гуку ці вар'іраванне папеўкі на 2—3 гуках натуральнага гукарада. *І. Дз. Назіна.*

**«ТРУДЫ́ ВИ́ТЕБСКОЙ УЧЁНОЙ АРХИ́ВНОЙ КОМИ́ССИИ»**, гл. ў арт. *«Полоцко-Витебская старина».*

**ТРЫГУ́БІЦА**, традыцыйная рыбалоўная снасць. Лакальныя назвы трохсценка, абарэц; у Паазер'і — рэжоўка, гант; на Палессі — баўтуха, свіроўка, гонка, дрыгавіца, крыжоўка. На Беларусі Т. вядома здаўна. Першыя звесткі пра яе змяшчаюць пісьмовыя крыніцы 16 ст. (напр., «Устава на валокі», 1557). Складаецца з трох сеткавых палотнішчаў: аднаго густога паміж двума рэдкімі, з вялікімі вочкамі (рэдзі). Рыба, натрапіўшы на сеткавую сцяну, праходзіць праз вочка першай рэдзі, «набірае» на сябе густое сеткавае палатно і, прайшоўшы праз вочка другой рэдзі, утварае мяшок-пастку. Рыбачылі Т. пераважна ў загон (з адной ці дзвюх лодак); заняўшы ёю частку вадаёма, рыбу ў сетку заганялі *баўтом*. Т. з уловам выбіралі ў лодку (часта — на *сцябла*). Радзей Т. цягнулі па рацэ: маглі рыбачыць з дзвюх лодак (сетку з уловам выбіралі ў абедзве) або з адной (другі рыбак з сеткавай вяроўкай ішоў па беразе; снасць выбіралі спачатку на сушу, потым — у лодку). Часам Т. выкарыстоўвалі як стаўную снасць (у азёрах, ёю перагароджвалі рэчкі



Трыгубіца.

і пратокі). У Паазер'і Т. часта ўстанаўлівалі недалёка ад месца, дзе выбіралі *невад*, каб вылавіць рыбу, што ўцякла з яго. Асабліва была пашырана ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. У наш час Т. лоўля рыбы дазволена толькі ў прамысловым рыбалоўстве.

*І. М. Браім.*

**ТРЫ́ЗНА,** язычніцкі пахавальны абрад у старажытных славян (адпавядае грэчаскаму слову «спаборніцтва»). Першапачаткова складалася з ахвярапрынашэнняў, ваенных гульняў і песень у гонар памерлага, а таксама памінальнага частавання напярэдадні і пасля трупаспалення (наладжвалі побач з месцам пахавання). Т. ва ўсх. славян звычайна адбывалася пры насыпанні кургана, як урачыстае развітанне з нябожчыкам у выглядзе ваеннай гульні ці спаборніцтва, асабліва пры пахаванні воіна або іншага знатнага мужа. На думку Б. А. Рыбакова, у слав. Т., як і ў антычным пахавальным цырыманіяле, галоўнае месца належала конскім рысталішчам (спаборніцтвам). Пасля прыняцця хрысціянства Т. доўгі час захоўвалася ў выглядзе памінальных песень, частавання. Да нашых дзён дайшоў памінальны звычай частаваць тых, хто прыйшоў на пахаванне, а таксама пакідаць невялікую колькасць ежы і пітва для нябожчыка (духам продкаў). Часам тэрмін «Т.» выкарыстоўваецца як сінонім *памінак*.

*Г. В. Штыхаў.*

**ТРЫПАЛІ́ТАВА** Зінаіда Міхайлаўна (1861—88), рускі бібліёграф; гл. *Пенкіна* З. М.

**ТРЫСЦЁН,** т р ы с ц е н ь, трохсценная зрубная прыбудова да жылога ці гаспадарчага памяшкання. Лакальная назва ляцён. Далучаецца да адной са сцен асн. пабудовы праз шулы, у пазы якіх закідваюцца бярвёны. Класічны прыклад Т.— *сенцы*. Часам як Т. да сянец прыбудоўвалі *клець*. Т. называюць і невял. хлевушок з аднасхільнай страхой, прырублены да глухой сцяны хаты або хлява з аднаго ці абодвух бакоў ад варот.

*У. С. Гуркоў.*

**ТУК,** гарачы тлушч з печанага сала. У Т. мачалі бліны, бульбу, хлеб; ім залівалі дранікі, калі ставілі падсмажыцца ў печ.



**Турава-мазырскі строй.** Дзяўчаты ў святочным адзенні. Вёска Ленін Жыткавіцкага раёна. Сярэдзіна 20 ст.



**Турава-мазырскі** строй. Дзяўчаты ў святочных уборах. Вёска Луткі Столінскага раёна. 1950-я г.

**ТУ́РАВА-МАЗЫ́РСКІ СТРОЙ,** традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Усходнім Палессі. Бытаваў у 19 — сярэдзіне 20 ст. пераважна ў Жыткавіцкім, Ельскім, Лельчыцкім, Мазырскім, Петрыкаўскім і Столінскім р-нах. Яму ўласцівы разнастайнасць форм адзення, паліхромнасць і маляўнічасць вышыўкі гладдзю. Жаночы гарнітур меў 2 варыянты: кашуля, 2 фартухі, гарсэт (кабат), намітка; кашуля, андарак або спадніца, фартух, хустка. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі або з гесткай са стаячым ці адкладным каўняром. Буйнарапартны арнамент вышыўкі крыжыкам у чырвона-чорным каларыце кампанаваўся ў выглядзе папярочнай паласы ў верхняй частцы рукава (радзей на грудзях), асобныя рапартамі размяшчаўся ў шахматным парадку пасярэдзіне рукава. У кашулях з гесткай арнамент часцей вышывалі гладдзю і кампанавалі ўздоўж лініі крою. Пераважалі раслінныя матывы — кветкі і лісце руж, ягады і лісце каліны, кветкі вяргіні, шыпшыны; сустракаліся таксама стылізаваныя выявы птушак, геаметрычныя ўзоры. Фартухі-крыскі шылі з адной полкі андарачнай суконнай тканіны з гарызантальнымі вохрыста-чырвона-чорнымі паскамі (на падоле ўзорысты шляк ткалі ў закладной тэхніцы). Белыя фартухі шылі з 1—2 полак палатна ці паркалю, аздаблялі вышыўкай гладдзю, карункамі, фальбонкамі. Андаракі найчасцей чырвона-малінавыя, затканыя падоўжнымі бела-вохрыстымі палоскамі, або клятчастыя ці гладкафарбаваныя чырвоныя, зялёныя, блакітныя. Спадніцы шылі з цёмна-сіняга, блакітнага, чорнага саціну, саржы, шоўку, шарсцянкі, каля падола аздаблялі 2—3 шлякамі нашывак пярэстых тасёмак, белых карункаў; прасавалі ў складкі. Гарсэты кроілі накшталт кароткага ліфа з серабрыстай або залацістай парчы, набіванага саціну, паркалю, шоўку, шарсцянкі (спераду паміж гарсэтам і поясам фартуха ўтваралася фальбона — напуск кашулі). На грудзях гарсэт аздаблялі нашыўкамі паскаў разнаколерных тканін, карункавых тасёмак. Галаўныя ўборы жанчын — намітка, чапец, хустка — белая даматканая льняная ці паркалёвая, багата аздобленая гладдзю паліхромнага раслінага ўзору, махрамі, і фабрычная чырвоная, сіняя, чорная. Мужчынская кашуля была тунікападобнага крою з багата вышытай манішкай (арнамент геаметрычны, раслінны), падпяразвалі поясам. Нага-

віцы шылі з палатна, сукна. Вопратку — казачыну, світу, кажух — аздаблялі нашыўкамі і аблямоўкамі з сукна ці саціну, фалдаваннем, вышыўкай, штапам. *М. Ф. Раманюк.*

**ТУ́РАЎСКІ КАРАГО́Д,** веснавы карагод з караваем на *Юр'я* (23 красавіка с. ст.). Назву атрымаў ад месца бытавання; першыя запісы яго зроблены ў 19 ст. ў мяст. Тураве (Жыткавіцкі р-н). Бытаваў таксама ў некаторых вёсках Жыткавіцкага, Лельчыцкага, Петрыкаўскага, Столінскага і інш. р-наў. Уключаў такія асн. моманты, як прыгатаванне дзяўчатамі каравая і яго ўпрыгожанне, карагоднае шэсце з ім і чырвонай тканінай па вуліцы, у полі, выкананне песні «Ідзе, ідзе карагод, / / Усе дзевачкі напярод...». На полі дзяўчаты вадзілі кругавы карагод, а хлопцы асобна імітавалі язду на конях, спявалі песні. У валачобным абрадзе таксама прысутнічаў элемент выхаду ў поле з хлебам. Т. к. — аграрна-магічны акт («Дзе каравай ходзіць, там жыта родзіць»). У ім прысутнічалі таксама ачышчальныя, засцерагальныя і ахоўныя акты. Т. к. — адна з важных састаўных частак культу сонца, хлеба, зямлі, а таксама *Ярылы.* *А. Ю. Лозка.*

**Турава-мазырскі строй.** Касцюм дзяўчынкі. Вёска Тонеж Лельчыцкага раёна.

**ТУ́РАЎСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны і адкрыты ў 1927 у г. п. Тураў Жыткавіцкага р-на. У Вял. Айч. вайну знішчаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адноўлены ў 1950. Мае 5 экспазіцыйных залаў (плошча экспазіцыі 279 м²), больш за 7 тыс. экспанатаў асноўнага фонду (1988). Аддзелы: гісторыі дасав. і сав. перыядаў, прыроды. У экспазіцыі матэрыялы археалагічных раскопак па гісторыі Турава, дакументы, якія адлюстроўваюць падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў, сацыяліст. будаўніцтва. У этнагр. калекцыі прылады працы і побыту сялян 19—20 ст. (кросны, калаўрот, бароны, граблі, косы, вілы, самавары, кадоўбы, драўляныя каўшы, начвы, куфры, ручнікі, посцілкі, абрусы і інш.), нацыянальнае адзенне (жаночыя кашулі, андаракі, фартухі, хусткі і інш.), вырабы з саломы, лазы. *В. Р. Марынкіна.*

**ТУ́РЫЦЫ,** старажытны абрад паклянення туру, якога ў некаторых мясцовасцях лічылі «скотлім богом». Называўся таксама туры, летніцы. Тур — першабытны вымерлы бык, вадзіўся ва ўсх. паўшар'і; апошні яго экземпляр забіты ў Польшчы ў 1627. Тура ўпаміналі Пліній, Сенека, Марцыял, Юлій Цэзар і інш. Сустракаецца ён і ў нар. творчасці. Вызначаўся сілай, хуткасцю і быў прадметам палявання храбрых. На яго паляваў У. Манамах (1096). Тур упамінаецца ў «Слове пра паход Ігаравы», у Іпацьеўскім летапісе. З рога тура рабілі посуд для піцця, музычны духавы інструмент, яго аздаблялі. Выкарыстоўвалі і шкуру тура. У некаторых летапісах упамінаюцца скіраваныя супраць язычніцтва ігрышчы, на якіх вадзілі тура-сатану. Паводле сведчання А. Афанасьева, вясенняе свята Т. шырока бытавала ў славян. У Галіцыі Т. святкавалі ў пач. мая ці на зялёным тыдні, у чэхаў 1 мая лічылася «каровіным святам». У гэты дзень дзяўчаты чысцілі і высыпалі пяском хлявы, упрыгожвалі кароў кветкамі і зялёнымі галінкамі, давалі ім хлеб, мазалі мёдам і пры гуках вясковай музыкі гналі статак на пашу, спявалі песні. У паўд. славян Т. былі на *масленіцу,* у заходніх — каля *сёмухі.* Даследчыкі старажытнасці бачаць у знойдзеных у раёнах колішняга рассялення радзімічаў археал. падвесках з выявамі галавы быка і сямі дзявочых фігурак сляды абраду Т., падобнага да грэчаскіх таўракатапсій (Б. Рыбакоў). На Т. насілі маскі тура. У некаторых мясцовасцях (на зямлі радзімічаў) на навагоднія святы вадзілі «тура» — абрад гэты падобны на ваджэнне «казы». У гульнях «У тура», «Бычок» і інш. захаваліся сляды культу быка, «буй-тура», «яр-тура». Да 19 ст. ў нашчадкаў дрыгавічоў і вяцічаў зберагаліся галаўныя ўборы з «тур'імі рагамі». «Турава бажніца» была знойдзена ў Кіеве. *А. Ю. Лозка.*

**ТУШО́НІКІ,** тушаная бульба. Называлі таксама тушанка. Бульбу чысцілі, рэзалі на кавалачкі, тушылі ў печы (без вады) з салам або слівамі.

**ТШЦІНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура плямён бронзавага веку, якія ў 15—11 ст. да н. э. насялялі тэрыторыю Усходняй Польшчы, Паўночнай Украіны, Паўднёвай Беларусі. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам і паляваннем. Паселішчы размяшчаліся на пясчаных узвышэннях каля берагоў рэк і азёр, на першых надпоймавых тэрасах, а таксама на высокіх карэнных берагах. Наземныя або паўзямлянкавыя заглыбленыя ў зямлю на 0,5—1 м жытлы слупавой канструкцыі памерам ад 3×4 да 6×14 м, часам 2-камерныя, з 2-схільнымі стрэхамі, мелі ўнутры каменныя агнішчы або купальныя печы з перадвогнішчавымі ямамі, земляныя палкі і вымашчаныя ўчасткі падлогі. Праёмы паміж слупамі закладваліся плашкамі або рабіліся плятні, якія з унутранага боку абмазвалі глінай. Жытлы на паселішчах ставіліся ў адзін, радзей у 2 рады, утвараючы вуліцу, каля іх размяшчаліся гаспадарчыя наземныя пабудовы, ямы, агнішчы. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных і трупапалажэнне на курганных могільніках. Насельніцтва вырабляла кубкі, збаны, міскі, друшлякі, гліняныя лыжкі, цюльпанападобныя гаршкі з вузкім дном, патоўшчаным і скошаным венчыкам і наляпным на шыйцы валікам, упрыгожаныя ў верхняй частцы звісаючымі трохвугольнікамі, ялінкападобнымі і грабеньчатымі ўзорамі, лінейным арнаментам, ружанцавымі паяскамі і кампазіцыямі з касых ліній, рагатыя прасліцы, бронзавыя бранзалеты з завіткамі на канцах, шпількі з завіткамі або цвікападобнымі плешкамі на канцах, драцяныя кольцы і інш. Большасць даследчыкаў лічаць Т. к. праславянскай. Адгалінаванне Т. к. — *сосніцкая культура.* Вытокі — у *шнуравой керамікі культуры* і яе папярэдніках. *У. Ф. Ісаенка.*

**«ТЫГО́ДНІК ІЛЮСТРАВА́НЫ»** («Tygodnik Ilustrowany», «Ілюстраваны штотыднёвік»), польскі ілюстраваны часопіс, прысвечаны літаратуры, мастацтву і грамадскім праблемам. Выдаваўся на польск. мове ў Варшаве ў 1859—1939. Змяшчаў краязнаўчыя, гісторыка-літаратурныя, фальклорна-этнагр. матэрыялы, прысвечаныя Беларусі, у т. л. «Адзенне мяшчан і сялян з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан» Ю. Крашэўскага, «Пінск і Піншчына» А. Бандзкевіча, «Пра паэтычныя ўяўленні літоўска-крывіцкага народа ў яго песнях» і «Некалькі слоў пра звычаі насельніцтва ў Мінскай губерні» М. Камінскага, «Канстанцін Тышкевіч», «Рамуальд Зянькевіч», «Яўстафій Тышкевіч», «Эдвард Ромер», «Ігнат Дамейка» і «Оскар Кольберг» В. Каратынскага (супрацоўнік рэдакцыі часопіса), «Некалькі слоў пра творы фантазіі народа на Беларусі» і «Людвік Кандратовіч і яго паэзія» Ф. Сурына, «Касцёл у Дзятлаве» А. Багдановіча, «Пан Тадэвуш» на Беларусі» невяд. аўтара пад крыптанімам A. S., «Успаміны з Пінскага павета» Э. Ажэшкі, «Слядамі вешчуна» і «Францішак Багушэвіч»

Н. Роўбы, «Беларускі народ» С. Горскага, «Літва» Сыракомлі, «На Літве і Белай Русі» і «Беларусь прабуджаецца...» Ч. Янкоўскага. Рэпрадуцыраваў творы мастакоў, у т. л. «Вясковы музыка» М. Андрыёлі, «Камянец Літоўскі», «Шчорсы» і «Магілёў на Дняпры» Н. Орды, «З ваколіц возера Свіцязь» Ю. Фалата, «Віды Завосся» і «Віды Навагрудка» Ф. Бжазоўскага, «Свіцязянка» К. Альхімовіча, «Стары двор» і «Званар» Ф. Рушчыца.

*А. Ф. Літвіновіч, І. І. Янушкевіч.*

**ТЫН,** 1) разнавіднасць агароджы з папярочных або вертыкальных жэрдак, пераплеценых лазой, бярозавым венцам ці галінамі іншых дрэў. Пашырана ў сельскай мясцовасці па ўсёй Беларусі. 2) Тып агароджы з вертыкальных плашак, калкоў, убітых у зямлю, або са штыкетніку.

**ТЫПО́ВАЙ ГРАБЕ́НЬЧАТА-Я́МАЧНАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў 2-й пал. 3-га тысячагоддзя да н. э. насялялі тэрыторыю Паўд.-Усх. Прыбалтыкі і Паўн. Беларусі. Іх асноўныя заняткі — паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Насельніцтва жыло на паселішчах, размешчаных пераважна на пясчаных невысокіх узвышшэннях па берагах вадаёмаў, у акруглых або авальных у плане жытлах з жэрдак, пасярэдзіне якіх размяшчаліся адкрытыя агнішчы. Плямёны гэтай культуры карысталіся крамянёвымі і касцянымі прыладамі працы, выраблялі добра абпаленыя кругладонныя гаршкі яйцападобнай формы, арнаментаваныя гарызантальнымі паясамі з глыбокіх адбіткаў шыраказубага штампа і круглых ямак, якія дапаўняліся вусенебымі адбіткамі, рамбічнымі, трохвугольнымі і зігзагападобнымі ўзорамі, бурштынавыя падвескі, кольцы, гузікі. Зрэдку трапляюцца дробныя скульптурныя выявы людзей, звяроў і птушак. У канцы 3-га тысячагоддзя на н. э. носьбіты гэтай культуры былі асіміляваны плямёнамі *нарвенскай культуры.*

*М. М. Чарняўскі.*

**ТЫШКЕ́ВІЧ** Канстанцін Піевіч [5(17). 2.1806. г. п. Лагойск — 1(13). 7.1868], беларускі археолаг, этнограф, гісторык. Чл. Маскоўскага археалагічнага т-ва (1864). Скончыў Віленскі ун-т (1828). У 1828—36 працаваў у міністэрстве фінансаў у Варшаве. Удзельнік паўстання 1830—31. З 1836 жыў у Лагойску, дзе заснаваў музей старажытнасцей, сабраў архіў стараж. рукапісаў, калекцыю мастацкіх твораў, каштоўную б-ку. Адзін з заснавальнікаў *Віленскага музея старажытнасцей,* чл. Віленскай археалагічнай камісіі. У 1856 арганізаваў экспедыцыю па Віліі. Удзельнічаў у этнагр. выстаўцы ў Маскве (1867). Побыт беларусаў, абрады, звычаі, фальклор апісаў у манаграфіі «Вілія і яе берагі» (1871, на польск. мове). Даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў, замчышчаў у Мінскай губ., склаў першыя тапаграфічныя планы гарадзішчаў.



К. П. Тышкевіч.



Я. П. Тышкевіч.

*Тв.:* О курганах в Литве и Западной Руси. Вильна, 1865; Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno, 1859.

*Літ.:* Акуліч С. Музеі братоў Тышкевічаў //Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971. № 2; Каратынскі В. Канстанцін Тышкевіч//Творы. Мн., 1981; Кахаиоўскі Г. А. Адзін з ранніх даследчыкаў беларуска-літоўскага па-граніčча//Быт і культура беларусаў. Мн., 1984.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ТЫШКЕ́ВІЧ** Яўстафій Піевіч [6(18).4. 1814. г. п. Лагойск — 27.8(8.9). 1973], беларускі археолаг, этнограф, гісторык. Ганаровы чл. Пецярбургскай і Стакгольмскай АН, Лонданскага археалагічнага ін-та. Скончыў Мінскую гімназію (1831). У 1833—40 на службе ў канцылярыі Віленскага, потым Харкаўскага генерал-губернатара. З 1840 ганаровы апякун школ Барысаўскага пав., у 1848—54 куратар Мінскай гімназіі. У 1847 у Мінску чл. часовай камісіі па збору і выданню стараж. актаў, грамат і прывілеяў 16—18 ст. гарадоў Мінскай губ. У 1855 заснаваў *Віленскі музей старажытнасцей,* якому перадаў калекцыю ўласных збораў, арганізаваў і ўзначаліў Віленскую археалагічную камісію. Пасля паўстання 1863 вызвалены ад усіх пасад. Аўтар працы «Апісанне Барысаўскага павета» (1847, на польск. мове), дзе побач з гістарычнымі, статыстычнымі і інш. звесткамі дадзена характарыстыка гаспадарчай дзейнасці насельніцтва павета, апісанні адзення, сямейных і каляндарных абрадаў, звычаяў і вераванняў, змешчаны запісы фальклорных твораў. Многія з гэтых матэрыялаў дасланы яго карэспандэнтамі і супрацоўнікамі, бо ўзяты з ранейшых публікацый. Напісаў аповесць «Нашы краі» (1871, на польск. мове).

*Тв.:* Badania archeologiczne nad zabytkami przedmiotów sztuki rzemiosł i t. d. w dawnej Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno, 1850.

*Літ.:* Каратынскі В. Яўстафій Тышкевіч//Творы. Мн., 1981; Каханоўскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; Алексеев Л. В. Очерк истории белорусской дореволюционной археологии и исторического краеведения до 60-х годов XIX в. // Сов. археология. 1967. № 4.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ТЭ́БЛІ,** драўляныя элементы невялікіх памераў (дыяметр да 5 см, даўжыня да 30 см), з дапамогай якіх павялічвалася надзейнасць злучэнняў у канструкцыях. Лакальныя назвы калкі, цвікі. Рабілі аднолькавага сячэння або завостраныя з аднаго канца, з цвёрдых парод драўніны (дуб, клён, ясень). Т. забівалі ў спецыяльна прасвідраваныя адтуліны.

*С. А. Сергачоў.*

**ТЭРПЕНЦІ́Н** (грэч. terebinthinos ад terebinthos тэрпенцінавае дрэва), вадкасць, здабытая перагонкай смалы з хваёвых дрэў; адна з назваў *шкіпінару.*



**«У КАРАГО́ДЗЕ МЫ БЫЛІ́»**, танцавальна-гульнёвы карагод. Музычны памер двухдольны. Тэмп умерана хуткі. Кругавы па форме; водзіцца «па сонцу» і ў процілеглы бок. Мае варыянты. У карагодзе ўдзельнічае неабмежаваная колькасць пар. Перад пачаткам карагода выбіраецца пара, якая ў сярэдзіне круга разыгрывае дзеянне — імправізаванае ўвасабленне песеннага тэксту. Удзельнікі, злучыўшы ўнізе рукі, простым спружыністым крокам рухаюцца супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі па замкнутым крузе, пры гэтым спяваюць: "У карагодзе мы былі...//Каго вы там бачылі?..». Пасля кожнага запеву выконваецца прыпеў, які складаецца з устойлівага «Ой, люлі» і апошняй часткі кожнага запеву. Малюнак круга перыядычна мяняецца: то ўдзельнікі дынамічна рухаюцца наперад, то, прытупваючы, некаторы час стаяць на месцы, тварам у сярэдзіну круга, і глядзяць за парай, што танцуе. Карагоднікі, не спыняючы руху, то звужаюць, то пашыраюць круг. Рукі, адпаведна, то апушчаны ўніз, то адведзены шырока ўбок, пры звужэнні круга згінаюць у локцях і падымаюць уверх да ўзроўню плячэй. Карагод зафіксаваны ў Лельчыцкім р-не. *А. М. Козенка.*

**«У КАРНАЧА́»**, дзіцячая гульня. На Случчыне называлі «У апуку». Для яе рабілі мячык з ануч. Кожны ўдзельнік выкопваў неглыбокую ямку, каля якой стаяў у пачатку гульні. Адзін з гульцоў пачынаў гульню — каціў мячык праз ямкі. Той, у чыю ямку закоціцца мячык, пляскаў у далоні. Па гэтаму сігналу астатнія ўдзельнікі ўцякалі «ў поле» (на пэўную адлегласць, адзначаную рысай на зямлі), а той, у чыю ямку трапіў мячык, павінен быў схапіць яго і цэліць у каго-небудзь з гульцоў. Калі гэта не ўдавалася, то яму выпадала каціць мячык па ямках. *В. Дз. Ліцвінка.*

**«У КАЧО́ЎКІ»**, старажытная дзіцячая гульня. Называлі таксама «Калясо», «У кругляк», «Катанне кулі», «Кацёлка» і інш. Для яе рабілі бярозавы кругляшок дыяметрам 10 см — качоўку. Дзеці дзяліліся на дзве каманды, кожная з якіх займала месца на розных баках вуліцы. Кожны меў свой кіёк, якім стараўся (па чарзе) папасці па качоўцы і адкаціць яе ў бок супрацьлеглай каманды. Выйгравала тая каманда, якой удавалася перакаціць качоўку за шарэнгу другой каманды. Замест качоўкі часам выкарыстоўвалі кола ад воза, каменнае ці жалезнае ядро і інш.

**«У МЯДЗВЕ́ДЗЯ НА БАРУ́»**, дзіцячая гульня. Удзельнікі выбіраюць «мядзведзя». Дзеці імітуюць збіранне грыбоў і ягад, спяваюць: «У мядзведзя на бару//Грыбы, ягады бяру...». «Мядзведзь» бегае за імі, стараецца злавіць каго-небудзь. Першы схоплены ім становіцца «мядзведзем», і гульня пачынаецца спачатку. Відаць, гульня — адбітак стараж. вераванняў чалавека пра татэм мядзведзя, у гонар якога перад *благавешчаннем* (24 сакавіка с. ст.) у некаторых мясцовасцях Беларусі святкавалі *камаедзіцу* (свята мядзведзя). *А. Ю. Лозка.*

**«У НАМЕ́РЫ»**, гульня моладзі ў час посту, калі не дазвалялася спяваць і танцаваць. Збіраліся ў вялікай хаце, ставілі пасярод яе ўслон, на які ўперамешку садзіліся хлопцы і дзяўчаты. Адзін з удзельнікаў гульні хадзіў і пытаў, ці задаволена суседка суседам. Калі дзяўчыне падабаўся хлопец, што сядзеў побач, яна глядзела ў яго бок. Астатнія ўдзельнікі ў гэты час крычалі: «раз, два, тры!», а хлопец цалаваў дзяўчыну. Гульня працягвалася, пакуль усе не размяркоўваліся па парах. Тэматычна блізкая да «Жаніцьбы Цярэшкі», «Яшчура» і інш. *В. Дз. Ліцвінка.*

**«У ПУПЫ́»**, дзіцячая гульня. Для яе былі патрэбны кійкі (даўжынёй каля 1 м) і чурачка (даўжынёй 10 см і таўшчынёй 8 см), якую ставілі на зямлю і называлі «пуп». Гульцы адыходзілі ад яго прыблізна на 10 м і, кідаючы свае кійкі, стараліся яго збіць. Хто першы прамахваўся, станавіўся «пастухом» і павінен быў «пасвіць» — стаяць ля «пупа», а калі яго збівалі,—ставіць на месца. *В. Дз. Ліцвінка.*

**УВАХО́ДЗІНЫ**, сямейная ўрачыстасць з нагоды перасялення ў новы дом (хату), кватэру; тое, што і *наваселле*.

**УВО́Д**, звычай радзіннай абраднасці. У канцы 9— пач. 20 ст. заканчваўся царкоўным абрадам «ачышчэння» парадзіхі праз 6 тыдняў пасля родаў. На працягу азначанага тэрміну парадзіха павінна была прытрымлівацца пэўных правіл паводзін: ёй нельга было хадзіць па ваду да калодзежа, хадзіць у лазню, у госці да суседзяў. Калі ж у гэтым была пільная патрэба, яна павінна была ўзяць з сабой кавалачак хлеба і пакласці яго на прыпечак, каб у тых, да каго яна прыйшла, «не біўся посуд». Парадзіха павінна была таксама асцерагацца прастуды, урокаў, не ўступаць у інтымныя адносіны з мужам і г. д., бо гэты перыяд лічыўся вельмі небяспечным для яе («па радзіху магіла адкрыта»). Пасля У. ўсе забароны здымаліся. У наш час захаваліся толькі некаторыя забароны як мера перасцярогі. *Т. І. Кухаронак.*

**УДАВА́**, жанчына, якая не выйшла замуж пасля смерці мужа.

**УДАВЕ́Ц**, мужчына, які не ажаніўся пасля смерці жонкі.

**УЗВА́Р**, адвар з ягад, з сушаных яблыкаў, груш, сліў.

**УЗВІ́ЖАННЕ**, хрысціянскае свята, звязанае з ушанаваннем крыжа. Называлася таксама звіжанне. Адзначалася 14 верасня с. ст. Паводле падання, крыж, на якім быў распяты Ісус Хрыстос, згубіўся пасля разгрому Ерусаліма і знайшла яго Алена — маці рымскага імператара Канстанціна. Каб крыж бачылі ўсе, яго высока ўздымалі («воздвигали») над натоўпам вернікаў. У хрысціянскім свяце У. пераплёліся і язычніцкія восеньскія вераванні. Нар. тлумачэнне назвы свята: «К узвіжанню ўсё мае быць здвінута», гэта значыць — усё прыбіралася з поля, птушкі адляталі ў цёплыя краі. У народзе лічылі, што ключ ад лета знаходзіцца ў шызай галачкі, якая, адлятаючы ў вырай, замыкала лета і забірала ключ з сабой. Было пашырана перакананне, што менавіта ў гэты дзень змеі хаваюцца па норах («здзвігаюцца на зіму»), таму сяляне, баючыся змей, стараліся пазбягаць хадзіць у лес, капаць зямлю, стаяць у садзе пад дрэвамі, куды нібыта змеі запаўзаюць па яблыкі. Апошні змяіны яд, як і першы, веснавы, лічыўся смертаносным. Бытавала легенда, што калі на У. гады збіраюцца ў адно месца, то наперадзе іх заўсёды ідзе змяіны цар, у якога на галаве залатая карона (ці рожкі). Каб задобрыць цара, варта разаслаць перад ім белы абрус з хлебам-соллю і пакланіцца, тады ён у знак падзякі скіне карону, якая свайго новага ўладальніка надзеліць надзвычайнай мудрасцю і праніклівасцю, здольнасцю ўгадваць чужыя думкі; на яго не будзе дзейнічаць змяіны яд. *У. А. Васілевіч.*

**У́ЗДЗЕНСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны 6.2.1981. Адкрыты 1.11.1986. Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл. экспазіцыі 600 $м^2$), 7 тыс. экспанатаў асн. фонду (1988), а таксама надворныя пабудовы сялянскай сядзібы (хата, клець, калодзеж, павець). Аддзелы: археалогіі; гісторыі дасав. і сав. перыядаў; Вял. Айч. вайны; развіцця нар. гаспадаркі ў пасляваенны час; літаратуры, навукі і мастацтва; прыроды, архітэктуры, этнаграфіі і побыту. У аддзелах матэрыялы археалагічных раскопак на тэрыторыі раёна, у т. л. рэчы 11—12 ст., дакументы пра Рэвалюцыю 1905—07 на Уздзеншчыне, удзел працоўных у Кастр. рэвалюцыі, грамадз. і Вял. Айч. войнах, пра станаўленне Сав. улады, адлюстраваны партыз. рух на тэрыторыі раёна, вызваленне краю ад ням.-фаш. захопнікаў, аднаўленне і развіццё нар. гаспадаркі і культуры. У раздзеле этнаграфіі і побыту прылады працы і побыту сялян 19—20 ст. (ткацкі стан, калаўроты і інш. ткацкія прылады, прылады працы цесляроў, гарбароў, жорны, прасліцы, посуд, кубел, куфар, ступы, начоўкі, калыска, посцілкі, абрусы, ручнікі, узоры нацыянальнага

адзення і інш.), вырабы мясцовых майстроў. *А. М. Папко.*

**УКЛА́Д ЖЫЦЦЯ́**, сукупнасць спосабаў і форм жыццядзейнасці ў пазавытворчай сферы, напасрэднае задавальненне матэрыяльных і духоўных патрэб людзей у харчах, адзенні, жыллі і падтрыманні здароўя, спорце, аматарскіх занятках, адпачынку, забавах і інш.; тое, што і *побыт*.

**УКЛЕ́ЙНІЦА**, традыцыйная рыбалоўная снасць, тып *сеткі*. Мае адно сеткавае палотнішча, праз верхні і ніжні край якога працягнуты дзве вяроўкі. Адрозніваецца ад інш. тыпаў сетак прызначэннем — лоўля верхаводкі (уклейкі, адсюль назва). Малыя памеры рыбкі вызначалі памер вочка (каля 10 мм). У. аснашчалася паплаўкамі і грузіламі так, каб верхні яе край знаходзіўся каля паверхні вады. Плаўнымі У. рыбачылі на рэках Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай абл., стаўныя У. выкарыстоўвалі ў Віцебскай, на Пн Гродзенскай, ПнЗ Мінскай абл.; у Паазер'і рыбачылі У. у загон (з выкарыстаннем *байта*). У наш час лоўля рыбы У. дазволена толькі ў прамысловым рыбалоўстве. *І. М. Браім.*

**УКРАІ́НЦЫ**, нацыя, асноўнае насельніцтва УССР (каля 36,5 млн. чалавек). Усяго ў СССР 42,3 млн., з іх у БССР — 231 тыс. (пераважная большасць у гарадах; дадзеныя перапісу 1979). Гавораць на ўкраінскай мове. Жывуць таксама ў ЗША, Канадзе, Аргенціне, Бразіліі, Польшчы і інш.

Разам з *беларусамі* і *рускімі* паходзяць са стараж.-рускай народнасці (9—13 ст.), якая мела адзіную дзяржаву — Кіеўскую Русь, мову, рэлігію (праваслаўе). Прыкладна з 14—15 ст. У. выступаюць як самастойная этнічная супольнасць, у 16—17 ст. адбывалася кансалідацыя і ўмацаванне украінскай народнасці. У Рэчы Паспалітай У. і беларусы вялі барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У 1654 Украіна далучана да Расіі. У канцы 18 ст. пасля далучэння Беларусі да Расіі аднавіліся трывалыя сувязі беларусаў і У. Этнічныя межы абодвух народаў невыразныя. У пагранічных з Украінай раёнах Беларусі, якія з'яўляюцца як бы этнічна пераходнай зонай, заўсёды жыла пэўная колькасць У. У 17—18 ст. узніклі пасяленні У.— выхадцаў з Валыні, а таксама казакоў. У канцы 19 — пач. 20 ст. найбольшыя групы У. жылі ў Бабруйскім, Брэсцкім, Быхаўскім, Гомельскім, Кобрынскім, Пінскім, Рэчыцкім, Слуцкім пав., у наш час кампактныя рассяленні ёсць на Пд Беларусі. Колькасць У. на Беларусі павялічвалася за гады Сав. улады за кошт міграцыі з УССР. У наш час асаблівых адрозненняў паміж У. і насельніцтвам, сярод якога яны жывуць, няма, этнічная спецыфіка мацней захоўваецца ў фальклоры і абрадах. *Э. Р. Сабаленка.*

**УЛА́ЗІНЫ**, сямейная ўрачыстасць з нагоды перасялення ў новы дом (хату), кватэру; тое, што і *навасселле*.

**УЛА́ШЧЫК** Мікалай Мікалаевіч [1(14).2.1906, в. Віцкаўшчына Дзяржынскага р-на — 14.11.1986], беларускі савецкі гісторык, археограф, краязнавец. Д-р гіст. навук (1964). Скончыў БДУ (1929). Супрацоўнік Дзярж. бібліятэкі БССР (1925—29). У 1930—44, 1947—50 настаўнічаў. Быў беспадстаўна рэпрэсіраваны. Адбываў ссылку ў Вяцкай вобл. (1930—33), зняволенне ў лагерах Урала, Сібіры (1933—35, 1941—42, 1950—1955). У 1955—86 у Ін-це гісторыі СССР АН СССР (малодшы, старшы навуковы супрацоўнік, кансультант). Аўтар больш як 100 публікацый, у т. л. манаграфій па гісторыі Беларусі эпохі феадалізму, бел. летапісанню і крыніцазнаўству гэтай тэматыкі. У даследаваннях адлюстраваны матэрыяльная і духоўная культура, нар. традыцыі і звычаі, нацыянальны характар беларусаў. У кн. «Передумовы сялянскай рэформы 1861 г. ў Літве і Заходняй Беларусі» (1965) паказаў эвалюцыю гаспадарчага ўкладу бел. вёскі, сацыяльна-эканам. фактары антыпрыгонніцкага руху сялянства, звярнуў увагу на беспадстаўнасць распаўсюджанага ў літаратуры тэзіса пра нібыта польскае паходжанне землеўласніцкай арыстакратыі на Беларусі, якая ў абсалютнай большасці была карэннага паходжання, але на працягу 17—18 ст. так апалячылася, што мала чым розніласся ад уласна палякаў. У арт. «Адзенне беларусаў XVI—XVIII стст.» (зб. «Старажытнае адзенне народаў Усходняй Еўропы», 1986) апісаў розныя формы ніжняй і верхняй вопраткі (порткі, сукня, андарак, світа, сярмяга, армяк, бекеша, кажух, дылея, жупан, кунтуш), абутку (лапці, чаравікі), галаўных убораў (шапка, магерка, каўпак), пашыраных сярод бел. насельніцтва адпаведна яго сацыяльна-саслоўнай дыферэнцыяцыі. У гістарычна-этнагр. нарысе «Вёска Віцкаўшчына (1883—1917 гг.)» (Полымя. 1988. № 7—9) раскрыў галоўныя бакі эканам. і культурнага жыцця, штодзённага побыту бел. селяніна, яго працавітасць, таварыскасць, дабрыню, імкненне да граматы, культуры, апісаў нар. звычай навучання сялянскіх дзяцей асновам граматы («дарэктарства»), падкрэсліў вялікую папулярнасць на вёсцы бел. літаратурна-ананімных і вусна-паэтычных твораў («Горад і вёска», «Дзяліць вала», «Жывот» і інш.), фальклорных прац П. В. Шэйна, А. К. Сержпутоўскага, паасобных кніг рускіх і замежных пісьменнікаў. Аўтар успамінаў (рукапіс), якія насычаны багатымі звесткамі па фальклору і этнаграфіі Беларусі.

*Тв.:* Грамотность в дореволюционной Белоруссии//История СССР. 1968. № 1; Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; «История белорусского народа» В. И. Пичеты и ее роль в изучении истории Белоруссии // История и историки; Историографический ежегодник 1980. М., 1984; Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. *А. К. Каўко.*

**УМО́ЎНЫЯ МО́ВЫ**, лексічныя сістэмы, якія выкарыстоўваліся для захавання вытворчых, гандлёвых і інш. сакрэтаў, вядомых абмежаваным сацыяльным групам людзей, аб'яднаных рамяством ці родам дзейнасці. Узніклі ў выніку сацыяльнай неаднароднасці грамадства, яго вытворчай, прафесійнай і групавой дыферэнцыяцыі. Народжаны У. м. пазамоўнымі прычынамі, хоць у пэўнай ступені выконвалі камунікатыўную функцыю. Па сваёй прыродзе і сферы функцыяніравання У. м.— з'ява замкнутая, вузкаабмежаваная і таму пазбаўленая ўнутранага развіцця. Пашырэнне У. м. на Беларусі звязана гал. чынам з сукнавальным, шавецкім і кравецкім рамёствамі, пашырэннем арганізаванага жабрацтва і збору міласціны на будаўніцтва храмаў. Выдучаліся У. м. дрыбінскіх шапавалаў *(катрушніцкі лемезень)*, крычаўскіх, капыльскіх і шклоўскіх *(парушніцкі лемез)* краўцоў і шаўцоў, мсціслаўскіх *(любецкі лемент)*, слуцкіх *(семежаўскіх жабракоў мова)* жабракоў, іванаўскіх лабараў *(выцірняцкі гаўрыднік)*. У адрозненне ад тэрытарыяльных дыялектаў У. м. не мелі ўласнай структуры (сістэмы), не прымалі ўдзелу ў фарміраванні нац. мовы, тэрытарыяльна выразна не акрэслены. У. м. займаюць прамежкавае становішча паміж штучнымі (свядома створанымі, напр., эсперанта) і натуральнымі мовамі. Характарызуюцца адсутнасцю ўласнай фанетычнай сістэмы, граматычнага ладу, сродкаў сінтаксічнай сувязі. Змяненне і спалучэнне слоў ажыццяўляецца па законах роднай мовы. Лексічным сістэмам уласціва прастата — уключаюць толькі знамянальныя словы, якія аб'ядноўваліся ў некалькі паняційных груп: з'явы і прадметы прыроды, духоўныя паняцці, чалавек, ежа і пітво, адзенне, жыллё, прылады працы і посуд, жывёлы, расліны, дзеянні, уласцівасці і якасці, велічыні і меры, займеннікі, прыслоўі. Паводле паходжання гэта вузкія дыялектызмы («крутаўка» — абора, «чухаць» — біць), запазычанні з інш. моў (напр., з грэч. «хірка» — рука, з ням. «шнейдэр» — шавец, са шведск. «стод» — багацей, з татарск. «бурьма» — шуба). Фальклорных твораў на У. м. не зафіксавана, акрамя мовы капыльскага краўцоў, на якой былі створаны песні, казкі і інш. Знікненне адпаведных умоў, у якіх функцыяніравалі У. м., прывяло да знікнення іх т. зв. *адверніцкай гаворкай* і адміранне. *Г. К. Усціновіч.*

**УМЫКА́ННЕ І КУ́ПЛЯ-ПРО́ДАЖ НЯВЕ́СТЫ**, старажытныя формы *шлюбу*. Узыходзяць да эпохі першабытнародавай абшчыны і звязаны са з'яўленнем парнай сям'і. Іх рэшткі захаваліся ў шлюбных звычаях усіх народаў. Пытанне пра тое, якая форма шлюбу

ўзнікла раней, канчаткова не вырашана. Адны даследчыкі лічаць, што плямёны, якія жылі паміж сабой у згодзе, куплялі жонак, а плямёны, якія варагавалі, здабывалі іх сілай. На думку іншых, умыканне (выкраданне) папярэднічала звычаю куплі-продажу нявест. Нягледзячы на забарону («Руская праўда», напрыклад, забараняла ўмыканне нявест і ўстанаўлівала за парушэнне гэтай забароны вялікі штраф), звычай умыкання ўкараніўся настолькі глыбока, што яго прытрымліваліся нават у тых выпадках, калі адбывалася папярэдняе пагадненне паміж родамі нявесты і жаніха. На Беларусі гэты звычай часткова захаваўся да пач. 19 ст., а рэшткі яго сустракаліся і пазней (выкраданне нявесты дазваляла пазбегнуць выдаткаў на вясельнае застолле). У паўн.-ўсх. паветах Беларусі выкраданне дзяўчат без ведама бацькоў яшчэ ў пач. 20 ст. было даволі звычайнай з'явай на масленічных кірмашах. Элементы звычаю ўмыкання захаваліся ў абрадах і песнях бел. вяселля: у абрадзе бою за дзяўчыну і яе захопу ў час прыезду маладога па маладую, а таксама ў доме жаніха ў час падрыхтоўкі і ад'езду маладога да маладой (гл. ў арт. *Выпраўленне*), у абрадзе продажу *касы* маладой. Звычай куплі-продажу нявесты быў распаўсюджаны больш шырока. Гэта тлумачыцца тым, што дагаворны шлюб (шлюб па згодзе) доўгі час насіў характар гаспадарчага пагаднення — род нявесты страчваў работніка і заўсёды імкнуўся атрымаць поўную матэрыяльную кампенсацыю. Такія шлюбы былі заснаваны не столькі на пачуццёвых схільнасцях або каханні маладых, колькі на гаспадарчай неабходнасці. Іменна гэты звычай захаваўся ў вясельным абрадзе *выкупу* нявесты. *Л. А. Малаш.*

**УНУ́К**, сын дачкі або сына.

**УНУ́ЧКА**, дачка сына або дачкі.

**УПРЫГО́ЖАННІ** здымныя, прадметы, якімі аздабляюць і дапаўняюць народны касцюм. Маюць ярка выяўленае дэкаратыўнае прызначэнне. У старажытнасці выконвалі функцыі талісмана, амулета, *абярэга* (згодна нар. павер'ям, бурштынавыя пацеркі прыносілі здароўе і шчасце, завушніцы памяншалі ці здымалі галаўны боль). У. былі абавязковымі ў афармленні ўсяго комплексу адзення, падкрэслівалі яго лакальную спецыфіку, надавалі кампазіцыйную ўраўнаважанасць і завершанасць. У класавым грамадстве У. былі знакам сацыяльнага і маёмаснага становішча.

Адрозніваюць галаўныя, шыйныя, нагрудныя, вушныя і ручныя У. Да галаўных У. адносілі абручыкі, разнастайныя па форме і аздабленню грабяні і інш. Шыйныя і нагрудныя У. складаліся з многіх кампанентаў: пацерак, стужак, вырабаў з бісеру і металу, гарманічна звязаных паміж сабой. Найбольш старажытнымі і пашыранымі былі пацеркі (называлі таксама кара́лі, бусны — Клімавіцкі р-н, маністы — Добрушскі р-н). Розніліся яны матэрыялам, колерам, формай, характарам спалучэння асобных элементаў. Пацеркі з каштоўных матэрыялаў (граната, каралаў, бурштыну, жэмчугу) цаніліся, захоўваліся і перадаваліся як сямейная рэліквія з пакалення ў пакаленне. Пацеркі з гранёных зярнят граната цёмна-вішнёвага колеру называлі грынаты, з гладкіх зярнят — крывавыя маціцы, з жамчужных зярнят — пярловыя маціцы, з бурштыну — брушты́н. У канцы 19 — пач. 20 ст. пашырыліся танныя пацеркі фабрычнай вытворчасці з разнаколерных (чырвоных, блакітных, зялёных, сініх, жоўтых, аранжавых, ружовых) каменных ці шкляных (літых ці выдзіманых) элементаў. Танныя шкляныя пацеркі называлі занізкамі, дутымі маністамі, бутэлямі, надуманкамі. У святочныя дні іх насілі ў вялікай колькасці: нізка пацерак шчыльна аблягала шыю, кожны наступны рад быў даўжэйшы за папярэдні, апошняя нізка часта даходзіла да пояса (гл., напр., *Дамачоўскі строй*). У будзённы дзень пацерак надзявалі мала, баючыся іх парваць. Моладзь і дзеці часам рабілі пацеркі з прыродных матэрыялаў. У комплекс жаночых У. на Пд і ПдУ Беларусі ўваходзілі бісерныя шыйныя У. — гарлячыкі (Веткаўскі р-н), пляцёнкі (Брагінскі р-н). Разнаколерны бісер (чырвоны, белы, сіні, чорны, жоўты) лыгалі на нітку, ствараючы геаметрычны ўзор. Бісерныя У. рабілі ў выглядзе стужкі-каўнерыка, які шчыльна прылягаў да шыі. Да традыцыйных шыйных У. адносяцца ювелірныя вырабы з металу. Залатыя і сярэбраныя ланцужкі былі прыналежнасцю касцюма заможнай шляхты; сельскае насельніцтва насіла ланцужкі з простага металу. Вялікая колькасць металічных ланцужкоў з буйнымі пацеркамі паміж асобнымі звёнамі і нагруднымі крыжамі ці ладанкай характэрна для жаночага касцюма *давыд-гарадоцка-тураўскага строю*. Асобнае месца ў комплексе нагрудных У. займалі металічныя падвескі — крыжы і абразкі (у адпаведнасці з іх культавым прызначэннем). На Магілёўшчыне іх падвешвалі да пацерак, на Палессі — да ланцужка ці шнурка (У.-ліжбан). Колькасць нагрудных У. была звязана з маст. асаблівасцямі касцюма: там, дзе ён быў багата аздоблены (вышыўка, натыканне і інш.), іх насілі менш. Распаўсюджанымі нагруднымі У. былі разнаколерныя фабрычныя стужкі з падвескамі ці без іх. У Веткаўскім р-не стужку даўжынёй 1,5 м, канцы якой, замацаваныя вакол шыі, спадалі па спіне, называлі строчкай (захоўвалі яе так, што яна набывала гафрыраваную форму). Даступны тып здымных У. — завушніцы (падвескі) і пушкі. Металічныя завушніцы насілі не толькі жанчыны, але і мужчыны (адну завушніцу). Большасць насельніцтва карысталася завушніцамі з медзі ці розных танных сплаваў, заможныя — з серабра ці золата. Такія вушныя У. былі ўзорыстымі, з устаўнымі камянямі (бірузой) ці іх імітацыяй (каляровым шклом), жамчужнымі зярнятамі, бурштынам. У залежнасці ад формы завушніцы называлі малінкі, вінаград, жалудкі, змейкі і інш. Архаічным упрыгожаннем былі пушкі з гусінага пуху, якія замацоўвалі ў мочцы вуха ніткай. Пушкі ўваходзілі ў панёўны комплекс жаночага адзення, які ў канцы 19 — пач. 20 ст. захаваўся толькі ў Веткаўскім р-не. Да ручных У. адносяцца пярсцёнкі, кольцы, бранзалеты. Беларусы аддавалі перавагу медным, бронзавым, алавяным, стальным кольцам і пярсцёнкам, больш заможныя насілі сярэбраныя. Звычайна яны былі гладкімі, пярсцёнкі мелі шкляныя ўстаўкі. Моладзь пляла сабе кольцы з саломы, конскага воласу. Кольцы і пярсцёнкі паўсюдна насілі да вяселля, пасля яго надзявалі толькі па вялікіх святах. У асяроддзі феадальнай знаці, шляхты і вышэйшага духавенства атрымаў пашырэнне сігнет — пярсцёнак з пячаткай. Гербавы сігнет (залаты, сярэбраны) насілі на указальным пальцы правай рукі; ён быў своеасаблівым пасведчаннем асобы. Бранзалеты насілі пераважна прадстаўніцы шляхецка-магнацкіх кругоў. У асяроддзі сельскай буржуазіі яны з'явіліся ў канцы 19 — пач. 20 ст. пад уплывам гарадской моды. Запінкі (шпонкі) — адзіны від У., які меў утылітарнае прызначэнне: імі сашчапвалі разрэзы гарлавіны і рукавоў кашулі. Былі з каляровымі шкельцамі. Сустракаліся самаробныя запінкі з двух невялікіх гузікаў, сашчэпленых адзін з другім. У пач. 20 ст. комплекс здымных У. значна змяніўся — каштоўныя натуральныя матэрыялы замяняліся падробкамі (штучным бурштынам і жэмчугам), рынак напоўніўся таннымі фабрычнымі вырабамі. У наш час выраб У. з'яўляецца галіной мастацкай прамысловасці і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. *Л. У. Дамнянкова.*

**УРБАНІЗА́ЦЫЯ** (ад лац. urbanus гарадскі, urbs горад), рост гарадоў, павелічэнне колькасці гарадскога насельніцтва, распаўсюджанне ўзораў, нормаў, цэнасных арыентацый, характэрных для *гарадскога ладу жыцця*. Перадумовы У. — рост індустрыі ў гарадах, развіццё іх культурных і палітычных функцый, паглыбленне тэрытарыяльнага падзелу працы. У. непарыўна звязана з асаблівасцямі фарміравання гарадскога насельніцтва і росту гарадоў: павелічэнне колькасці насельніцтва за кошт яго натуральнага прыросту, уключэнне ў межы гарадоў сельскіх населеных пунктаў, ператварэнне сельскіх населеных пунктаў у гарадскія, міграцыі ў гарады сельскіх жыхароў.

На Беларусі да 17 ст. было 68 гарадоў (10 і больш тыс. жыхароў у вялікіх, 2—5 тыс. у малых гарадах), 265 мястэчак (каля 1 тыс. жыхароў). З развіццём капіталізму аб'ек-

тыўная неабходнасць канцэнтрацыі і інтэграцыі разнастайных форм і відаў матэрыяльнай і духоўнай дзейнасці з'явілася прычынай узмацнення працэсаў У. Гарадское насельніцтва Беларусі з 1861 па 1913 павялічылася ў 3,1 раза (990,1 тыс. чал. у 1913, 14 % ад усяго насельніцтва). Тэмпы росту былі ніжэйшыя, чым у Расіі (у 1897 розніца ва ўдзельнай вазе гараджан складала 5 %, у 1913 — 4 %). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з развіццём сацыялістычнай індустрыі, культурным будаўніцтвам, пашырэннем сеткі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў назіраўся хуткі рост гарадскога насельніцтва (гл. табліцу 1).

Асабліва ўзраслі тэмпы У. ў пасляваенны перыяд. За 1959—88 колькасць гарадскога насельніцтва ў БССР падвоілася (асабліва за кошт міграцыі сельскіх жыхароў; штогод у гарады ўлівалася 80—90 тыс. чал.). У 1971—85 прырост за кошт міграцыі склаў каля 1,2 млн. чал. (у $1^1/_2$ раза вышэй натуральнага прыросту). Міграцыя складала $^2/_3$ прыросту насельніцтва гарадоў, натуральны прырост $^1/_3$. Гл. таксама арт. *Горад*, *Міграцыя насельніцтва*, *Насельніцтва*.

Урбанізаванасць насельніцтва БССР ніжэй, чым у цэлым па краіне (адпаведна 65 % і 67 % у 1988). Аднак тэмпы росту гарадскога насельніцтва вышэй сярэднесаюзных (гл. табліцу 2).

Табліца 2

**Тэмпы росту гарадскога насельніцтва СССР і БССР, %**

| | 1959—70[1] | 1970—79[2] | 1979—87[3] |
|---|---|---|---|
| СССР | 136,0 | 120,3 | 113,6 |
| БССР | 157,5 | 134,6 | 122,8 |

[1] 1959 = 100 %. [2] 1970 = 100 %. [3] 1979 = = 100 %.

Тэмпы росту слабеюць у сувязі з павышэннем узроўню У., у выніку скарачэння міграцыі сельскага насельніцтва ў гарады і паніжэння натуральнага прыросту. З 1960-х г. горад уключаецца ў маятнікавую міграцыю, «точачная» форма канцэнтрацыі насельніцтва ўступае месца агламерацыі (развіццё вакол вялікіх гарадоў цэлай сістэмы пасяленняў, якія аб'яднаны вытворчымі, працоўнымі, культурна-бытавымі, рэкрэацыйнымі сувязямі) і урбанізаванаму раёну. У БССР інтэнсіўна фарміруецца Мінская агламерацыя, асноўнае звяно якой — Мінск і функцыянальна ўзаемазвязаная з ім сістэма гарадоў: Маладзечна — Вілейка, Смалявічы — Жодзіна — Барысаў, Слуцк — Салігорск, Дзяржынск — Стоўбцы, Чэрвень — Мар'іна Горка. Для Мінска характэрны высокія тэмпы

Табліца 1

**Дынаміка гарадскога насельніцтва Беларусі ў 1897—88**
(звесткі за 1913 на канец года, за 1988 на пачатак, астатнія — паводле перапісу)

| | 1897 | 1913 | 1926 | 1939 | 1959 | 1970 | 1979 | 1988 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Насельніцтва (тыс. чал.) | 6673 | 6899 | 4138 | 8912 | 8056 | 9002 | 9560 | 10 143 |
| Гарадское (у дужках % да ўсяго насельніцтва) | 899 (13) | 990 (14) | 848 (17) | 1855 (21) | 2481 (31) | 3908 (43) | 5263 (55) | 6628 (65) |

росту насельніцтва (колькасць жыхароў з 1950 па 1988 павялічылася ў 5,7 раза і склала ў 1988 1 млн. 584 тыс. чал., 23 % усяго гарадскога насельніцтва БССР, у 1950 — 16 %). На долю Мінска прыпадае $^1/_3$ усіх маятнікавых міграцый. Назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя развіцця гарадоў з колькасцю насельніцтва звыш 50 тыс. чал. (у 1950 — 7 гарадоў, у 1988 — 22). Іх доля ў агульнай колькасці гарадскога насельніцтва ўзрасла з 43,9 % у 1959 да 74,6 % у 1988. На Беларусі 99 гарадоў і 112 пасёлкаў гарадскога тыпу, з іх 10 гарадоў з насельніцтвам ад 50 да 100 тыс. чал., 11 — з насельніцтвам 100—500 тыс. чал., 1 горад-«мільянер». Па меры развіцця урбаністычных тэндэнцый ідзе перараземяркаванне насельніцтва паміж гарадамі: невялікія гарады (не больш 5 тыс. чал.), пасёлкі гарадскога тыпу аддаюць сваё насельніцтва вялікім, колькасць жыхароў у іх памяншаецца. Па многіх параметрах сацыяльна-культурнага развіцця яны маюць падабенства з сельскай мясцовасцю. На сучасным этапе актыўна асвойваюць культуру і лад жыцця адміністрацыйных, прамысловых, навуковых і культурных цэнтраў рэспублікі. У працэсы У. ўцягваюцца і сельскія пасяленні. У колькасным плане гэта выяўляецца ў адносным і абсалютным скарачэнні сельскага насельніцтва, памяншэнні колькасці сельскіх населеных пунктаў. Узмацняюцца працоўныя і культурна-бытавыя сувязі паміж горадам і вёскай, што вядзе да актывізацыі ўзаемаабмену, развіцця сельска-гарадской інтэграцыі. Развіваецца маятнікавая міграцыя паміж горадам і вёскай, паміж самімі сельскімі пасяленнямі. Міграцыя ў гарады большая па аб'ёму, але назіраецца ўжо і адваротны працэс: у вёскі вяртаюцца тыя, хто калісьці пакінуў іх, едуць сюды і былыя гараджане.

У БССР праводзяцца мерапрыемствы па комплекснаму рэгуляванню працэсаў У. Дэмаграфічная палітыка накіравана на абмежаванне росту вялікіх гарадоў, развіццё сярэдніх і малых гарадскіх пасяленняў, стрымліванне міграцыі з вёсак. Аднак за невялікім выключэннем У. і звязаныя з ёю міграцыйныя працэсы яшчэ слаба паддаюцца кантролю і кіраванню. На першы план выходзяць якасныя праблемы У.: уплыў гарадскога асяроддзя на чалавека і чалавека на змены ў гарадскім ладзе жыцця. Важнае значэнне мае перадольванне супярэчнасцей У., пошукі шляхоў да гарманізацыі паміж асобай і урбанізаваным асяроддзем.

*Г. І. Каспяровіч.*



**Усходняе Палессе.** Сялянскія сядзібы з агародамі. Вёска Убібачкі Любанскага раёна. 1927.

**УРБО́НІМЫ** (лац. urbs горад + nomen імя), назвы жыхароў асобных гарадоў. У эпохі рабаўладальніцтва і феадалізму характар арганізацыі насельніцтва абумоўліваў пашырэнне У. сярод жыхароў пэўнай (паліт., адміністрацыйнай і інш.) тэрыторыі, аб'яднанай вакол горада, што адлюстроўвала пачатковую лакальную ступень этнічнай кансалідацыі. На землях Беларусі першыя У. (палачаны, віцбляны, тураўцы, іаяслаўцы і інш.) паявіліся ў 9—10 ст. у якасці зямляцкіх этнанімічных вызначэнняў на-

сельніцтва княстваў-зямель, удзельных княстваў, княжацкіх валасцей і інш. Паводле звестак летапісаў і інш. гіст. дакументаў, у 11—13 ст. было больш за 30 У., у 14—18 ст.— больш за 380 (жыхары гарадоў і мястэчак аб'ядноўваліся з насельніцтвам навакольных валасцей пад адзінай назвай бабруяне, рэчычане, мазыране і г. д.). Пры намінатыўнай дыферэнцыяцыі насельніцтва на мяшчан (насельніцтва гарадоў і мястэчак) і валашан (сельскае насельніцтва валасцей) У. захоўваліся за гараджанамі, напр., піняне, берасцяне, усвятчане, гамяйчане, а сяляне вызначаліся як людзі пінскія, людзі берасцейскія, мужы усвяцкія, мужыкі гамейскія. Пры феадалізме і на пачатку капіталізму У. былі ўстойлівымі ў іншаэтнічным асяроддзі, сярод суседзяў і часта трансфармаваліся ў прозвішчы, мянушкі (Пінчук, Пінчуковіч, Бабруйскі, Быхавец і інш.). Найбольш стабільна і працягла існавалі У. буйных земляцкіх аб'яднанняў (палачане, віцябляне, мсціслаўцы і інш.). У наш час У. захоўваюцца амаль выключна для вызначэння насельніцтва гарадоў, але некаторыя традыцыйна выкарыстоўваюцца і сельскім насельніцтвам (пінчукі, случакі, быхаўцы і інш.). *І. У. Чаквін.*

возера па міжрэччы Ясельды і Бобрыка на Лахву, Лунінец і далей па Прыпяці і правабярэжжы Гарыні; гл. карту ў арт. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён*). Паўн. мяжа рэгіёна дакладна сумяшчаецца з зонай кампактнага рассялення водараздзельнага тыпу, дзе характэрныя палескія ландшафты змяняюцца развoранымі і даўно абжытымі лёсавымі раўнінамі Цэнтр. Беларусі з густой сеткай сельскіх паселенняў. Межы гэтых рэгіёнаў дакладна адлюстроўваюць і арэалы мясцовых этнонімаў — палешукоў на Пд і палян (ці палевікоў) на Пн. Своеасаблівасць археалагічнай культуры У. П. выяўляюць стараж. прылады працы, пахавальны інвентар і абрады. У жалезным веку У. П. з'яўлялася асноўнай тэрыторыяй рассялення плямён *мілаградскай культуры* (7—3 ст. да н. э.) і *зарубінецкай культуры* (3 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.). У 8—9 ст. У. П. засялялі *дрыгавічы*, якія мелі сваё палітычнае аб'яднанне «княжанне». У 9 ст. яны дайшлі на Пн да верхняга басейна Бярэзіны, а на З дасягнулі левабярэжжа Нёмана, дзе сустрэліся з *яцвягамі*, паклаўшы пачатак славянізацыі апошніх. У перыяд феадальнай раздробленасці 12—13 ст. асноўная тэрыторыя У. П. ўваходзіла ў склад

чаных зямель і няўдобіцы накладвалі адбітак на характар рассялення, становішча шляхоў зносін і транспартныя сродкі, гаспадарчыя занятк і паўсядзённы побыт. Дробныя ўчастківорных зямель былі раскіданы на значнай адлегласці асобнымі астраўкамі сярод балот і лясоў, што стварала шмат нязручнасцей пры іх апрацоўцы. У земляробчай практыцы побач з трохполлем захаваліся лясныя пералогі і нават лядная (падсечна-агнявая) сістэма. Зямлю апрацоўвалі валамі з дапамогай палескай сахі. На сваіх чаўнах сяляне перапраўляліся з аднаго вострава на другі, ставілі буданы-курані, што служылі ім часовым жыллём, і паслядоўна апрацоўвалі адзін участак за другім. Такім жа спосабам у канцы лета збіралі і ўраджай з палёў, абмалочвалі снапы ці складвалі іх неабмалочанымі на высокіх *адонках*, а пасля вывозілі на чоўнах або санях. У Мазырскім Палессі ўвесь запас збожжа захоўвалі звычайна ў свірнах і клецях. Значную частку с.-г. угоддзяў складалі сенажаці. Мясцовыя жыхары трымалі вялікую колькасць свойскай жывёлы, сярод якой пераважалі буйная рагатая



**Усходняе Палессе.** Сельскі ландшафт вясной. Былая вёска Чучэвічы Мазырскага павета. 1910.



**Усходняе Палессе.** Воз з двухваловай запрэжкай. Вёска Шарпілаўка Гомельскага павета. 1904.

**УСЛО́Н,** невялікая пераносная лаўка; даўні від народнай *мэблі*. Рабілі з тоўстай дошкі на чатырох ножках, нярадка — з расколатага дрэва з 4 роўна падпілаванымі сукамі, якія служылі ножкамі (часам — на 2 ножках з аднаго канца, другі клалі на лаву). Самаробныя У. сустракаюцца і ў наш час.

**УСХОДНЕПАМО́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура; тое, што і *паморская культура*.

**УСХО́ДНЯЕ ПАЛЕ́ССЕ,** гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, які займае большую частку Палескай нізіны ў Гомельскай, Мінскай і Брэсцкай абл. На У мяжуе з *Падняпроўем* (па правабярэжжы Дняпра і ніжняй Бярэзіне), на Пн — з *Цэнтральнай Беларуссю* (па лініі Парычы — Любань — Старобін — Чудзін), на З — з *Заходнім Палессем* (ад Выганаўскага

Тураўскага (Турава-Пінскага) княства, Мазырскае Палессе — Кіеўскага княства. У перыяд Вял. кн. Літоўскага і Рэчы Паспалітай землі У. П. ўваходзілі ў склад Мінскага, Навагрудскага і Брэсцкага ваяводстваў. Разам з тым па этнагр. рысах у той час Палессе вылучалася ў асобную гіст. правінцыю, што знайшло адлюстраванне і на геагр. картах (карты Т. Макоўскага 1613, Г. дэ Баплана 1651 і інш.). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) У. П. ўвайшло ў склад Мінскай губ.

У рэльефе У. П. кампактныя ўзвышшы і грады чаргуюцца з вялізнымі балоцістымі нізінамі Прыпяцкага Палесся, з рачнымі далінамі, мноствам пойменных ручаін і азёр-старыц. Да нядаўняга часу вялікія плошчы займалі адкрытыя балоты (галы), зарослыя чаротам, трыснягом, асакой і кустарнікам; некаторыя з іх не замярзалі на працягу ўсёй зімы. Шырокія веснавыя разлівы, вялікія плошчы забало-

жывёла і свінні. Свіней нярэдка выганялі на выпас у лес ці адвозілі ў чаўнах на суседнія астравы, дзе яны знаходзіліся ў натуральных умовах без нагляду; карміліся сакавітай травой, каранямі і жалудамі. Пэўнае месца займала гуртавое ўтрыманне рагатай жывёлы, якую вялікім статкам пасвілі ўдалечыні ад вёсак, заганяючы на ноч у спецыяльную загарадку з куранём і лёгкай будынінай тыпу хлява (кашара). У традыцыйнай гаспадарцы палескіх сялян побач з земляробствам і жывёлагадоўляй былі пашыраны рыбалоўства, збіральніцтва, пчалярства, хатнія промыслы. У рацыёне харчавання больш істотнае месца, чым у іншых рэгіёнах, займалі рыбныя і мясныя стравы.

Сельскія паселенні нераўнамерна размяркоўваліся на тэрыторыі рэгіёна. Найбольш густа населенымі здаўна былі

Хойніцка-Брагінскае і Юравіцкае узвышшы, Мазырская града, а на З — Тураўская лёсавая раўніна; разам з тым вялікія прасторы Прыпяцкага Палесся доўгі час аставаліся слаба асвоенымі і рэдка заселенымі. Мнагадворныя вёскі размяшчаліся па берагах рэк і яроў, а на забалочаных абшарах Прыпяцкага Палесся — на марэнных пагорках і дзюнных астравах па краях балот. Побач з мнагадворнымі сустракаліся невялікія пасяленні (5—10) хат), засценкі і хутары-выселкі. Вулічная паласа ўяўляла сабой сыпучы пясчаны грунт або штучную грэблю, ад якой да двароў вялі такія ж гаці-пад'езды і масткі. Праз балоцістыя, затопленыя ўвесну ўчасткі ўладкоўвалі пераходы на палях (лавы) і кладкі.

Тыповыя двары — пагонныя, замкнутыя (вянковыя) і Г-падобныя. Будоўлі звычайна размяшчаліся ў сістэме сядзібы ў наступным парадку: хата + сенцы + стопка + павець + хлявы + адрына. У 19 ст. яшчэ сустракаўся і больш стараж. варыянт забудовы, калі сенцы ставілі першымі ад вуліцы, за імі ішла хата; клець і свіран будавалі нярэдка ў другім радзе насупраць жылля. У вялікіх трохпакаленных сем'ях было некалькі клецей па колькасці жанатых мужчын, якія вялі агульную гаспадарку. У сваіх клецях кожная шлюбная пара захоўвала непадзельны скарб; тут жа спалі, часам і ўзімку. Стопку для гародніны (сцёжка, варыўня) рабілі ў комплексе з жыллём і асобна. На Мазыршчыне замест стопак (ці паралельна з імі) будавалі скляпы (пограб, лёх). Найбольш распаўсюджаныя планіровачныя тыпы жылля: хата + сенцы + стопка, хата + + сенцы. Сенцы (ляцён) — паўжылое памяшканне, летам служылі спальняй. На пойменных і балоцістых месцах хаты здаўна мелі драўляную падлогу, і, як клеці і свірны, ставіліся на палі. Стрэхі рабілі на самцах («закотам»), крылі дошкамі, чаротам і саломай. Да пач. 20 ст. яшчэ сустракаліся хаты са скляпеністай столлю. Вечарамі хаты асвятлялі стацыянарным лучніком (светачам), шырокі лейкападобны дымаход якога звешваўся са столі насупраць печы. Светач выконваў у сялянскім побыце не толькі практычныя, але і абрадавыя функцыі (гл. *«Жаніцьба коміна»*).

У нар. адзенні У. П. добра захаваліся традыцыйныя рысы, што выяўляюць агульнаслав. аснову. Старасвецкі жаночы комплекс з панёвай сустракаўся тут да 1930-х г. Найбольш пашыранай была панёва-плахта, якую насілі з шарсцяным фартухом (запаскай). У больш ранні час насілі дзве запаскі — спераду і ззаду. Кашуля мела ўзорны (часцей вышываны) дэкор на каўняры, рукавах, грудзях і ўнізе на падоле. Ва ўзоры дамінавалі буйныя раслінныя формы, якія ў познім сярэднявеччы выцеснілі геаметрызаваны дробнараслінны арнамент. Жаночыя гарсэты ўпрыгожваліся аплікацыяй і адрозніваліся лакальнымі асаблівасцямі. У Прыпяцкім Палессі яны больш доўгія, прыталеныя, з шарсцяной тканіны (калінкавіцкі, брагінскі строі), у Мазырскім — пераважна кароткія, з даматканага палатна ці фабрычнай тканіны (гл. *Турава-мазырскі строй*). Свае асаблівасці стылю і ўпрыгожвання мае традыцыйнае адзенне Тураўшчыны (гл. *Давыд-гарадоцка-тураўскі строй*).

У керамічнай вытворчасці вядомы некалькі цэнтраў (Парычы, Юравічы, Лоеў), што спецыялізаваліся на вырабу задымленага і паліванага посуду. На значнай частцы У. П. бытаваў і белагліняны посуд, які прывозілі сюды ганчары з в. Гарадной — буйнейшага цэнтра керамічнай вытворчасці ва ўсім Палессі (гл. *Палеская кераміка*).

Вылучэнне рэгіянальнага этнакультурнага масіву ў межах У. П. дапаўняецца лінгвістычнымі і фальклорнымі данымі. Мясцовыя мазырскія гаворкі складаюць асобную групу паўд.-зах. дыялекту (гл. *Дыялектная мова*). Рэгіянальныя асаблівасці мае і песенны фальклор: у прыватнасці, для вясельных напеваў У. П. уласцівы святочна-прыўзнятыя лірычныя матывы, што адрознівае іх ад зах.-палескіх. Даследчыкі песеннага фальклору вылучылі тут некалькі лакальных · вырыяцый нар. напеваў (тураўскі, петрыкаўска-мазырскі, ніжняпрыпяцкі і інш.). *В. С. Цітоў.*

**УТО́К,** папярочныя ніці тканіны. Пры вырабе аднатоннага палатна выкарыстоўвалі адзін У., для ўзорных тканін — два: фонавы, аднатонны з *асновай* (пярэкідзь), і паліхромны для ўзору. Пры тканні падрыхтаваныя для У. ніткі (звычайна льняная, суконная пража, зрэдку фабрычная) намотвалі на *цэўкі*. У наш час для У. выкарыстоўваюцца пераважна фабрычныя баваўняныя ніткі.

**УЧА́Н,** старажытнае дашчанае судна. З 13 ст. бытавала на Зах. Дзвіне, Каспле і інш. рэках.



**ФАЛЬВА́РАК** (польск. folwark ад ням. Vorwerk хутар), тып невялікага (1—5 двароў) паселішча. Першапачаткова тэрмін «Ф.» абазначаў асобную феадальную гаспадарку, якая вырошчвала хлеб для асабістых патрэб феадала. Зямлю ў Ф. апрацоўвалі феадальна-залежныя сяляне. З павелічэннем попыту на с.-г. прадукты на знешнім і ўнутраным рынках з канца 15 — пач. 16 ст. ў Ф. значна пашырылася панская запашка за кошт лепшых сялянскіх зямель. А з сярэдзіны 16 ст. ў сувязі з ажыццяўленнем у Вял. кн. Літоўскім «Уставы на валокі» 1557 (гл. *Валочная памера*) на Беларусі складваецца фальваркова-паншчынная сістэма гаспадарання, пры якой асноўныя с.-г. культуры вырошчвалі пераважна на продаж. На З і ў цэнтры Беларусі Ф. стаў асноўнай формай гаспадарчай арганізацыі феадальнага ўладання як у дзяржаўных, так і ў прыватнаўласніцкіх маёнтках. Пазней фальваркова-паншчынная сістэма ахапіла і ўсх. частку Беларусі. Гэты працэс зацягнуўся да 2-й пал. 17 ст. Ф. ў той час уяўлялі сабою комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў, вакол якіх размяшчаліся агароды, ворныя землі, сенажаці і лясы. У Ф. будаваліся дробныя прамысловыя прадпрыемствы (цагельні, кузні, лесапілкі, млыны), трымаць якія меў права толькі феадал. Звычайна пры Ф. былі пасекі, сажалкі (для развядзення рыбы), карчма. З усталяваннем фальваркова-паншчыннай сістэмы на Беларусі слова «Ф.» значна пашырыла сваё значэнне і стала назвай пэўнага тыпу паселішчаў, што ўзніклі побач з маёнткамі феадала ці на яго землях. Жыхары такога Ф. — сяляне — абслугоўвалі феадальную гаспадарку. Далейшае пашырэнне панскай запашкі і павелічэнне сялянскіх павіннасцей прывяло паступова да збяднення і заняпаду сялянскай і да крызісу ў сярэдзіне 19 ст. памешчыцкай гаспадарак. Фальварковая сістэма гаспадарання ліквідавана на Беларусі паводле сялянскай рэформы 1861. Як тып паселішча Ф. праіснавалі ў Зах. Беларусі да 1930-х г. У спісе населеных месц б. Мінскай губ. яны яшчэ сустракаліся сярод розных іншых тыпаў паселішчаў. *У. С. Гуркоў.*

**ФАЛЬКЛО́Р** (англ. folk-lore літаральна нар. мудрасць), мастацкая калектыўная творчая дзейнасць працоўнага народа, якая адлюстроўвае яго жыццё, погляды, ідэалы; вусная паэтычная творчасць, музыка, тэатр, танец, выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, што створаны народам і бытуюць у нар. масах; тое, што і *народная творчасць.*

**ФА́ЛЮШ,** вытворчая пабудова для валення сукна, лямцу, валёнак і інш.; гл. арт. *Валюшня.*

**ФАРБАВА́ННЕ** пражы і тканіны. Асноўнай сыравінай для Ф. ў хатніх умовах служылі натуральныя фарбавальнікі: адвары або настоі лісця, кары дрэў, сцяблоў, кветак, каранёў траў. У выніку змешвання розных кампанентаў атрымлівалі патрэбны колер. Для Ф. ў чорны колер бралі адвар лісця і сцяблоў сухога ці сырога бабку (бабоўніку), у якім пражу або тканіну кіпяцілі 2—3 гадзіны, мачылі ў балотнай іржы (для замацавання колеру) і, не палошчучы, сушылі. У чорны

колер фарбавалі таксама настоем мучаніку (талакнянкі звычайнай), брусніцніку, кары крушыны і дубовага лісця — залівалі гарачай вадой і настойвалі 2—3 дні, затым замочвалі на 3—4 дні пражу ці тканіну. Чорным фарбавальнікам служыў і адвар кары дуба, ясеня, крушыны. Ваўняную пражу і тканіну ў чорны колер фарбавалі ў адвары бярозавай кары, які кіпяцілі 1—2 гадзіны). Для Ф. ў зялёны колер ужывалі адвар бярозавага лісця (збіралі ранняй вясной, калі на іх яшчэ была смала), у якім пражу ці тканіну замочвалі на 2—3 гадзіны. Выкарыстоўвалі таксама адвар з сухога верасу, лісця каманішніку, сырога карэння падбелу, сухіх сцяблоў маку і інш. Для замацавання колераў пафарбаваны матэрыял звычайна замочвалі ў жалезным купарвасе, квасе або балотнай іржы.

У канцы 19 — пач. 20 ст. шырокае распаўсюджанне атрымалі хімічныя фарбавальнікі, якія паступова выцеснілі натуральныя. *Г. М. Курыловіч.*

**ФАРТУ́Х,** паясная адзежына, якую надзявалі на спадніцу; састаўная частка народнага касцюма беларускіх жанчын. Называлі таксама запаска, затулка. Шылі з 1—2 полак ільнянога палатна, мацавалі на таліі завязкамі ці матузком. Памеры розныя, пераважна 30—35 см шырынёй, 50—80 даўжынёй і заўсёды на 10—15 см карацей за спадніцу. Святочныя Ф. багата аздаблялі натыканнем, вышыўкай, карункамі, фальбонамі, часам запрасоўвалі ў складкі. Звычайна каларыстычная гама, стылістыка арнаменту адпавядалі характару аздаблення кашулі. Найбольш пашыраныя — гарызантальныя палосы чырвонага ці чырвона-чорнага геаметрычнага арнаменту, які групаваўся па нізу і паступова пераходзіў да гладкага поля верху (калінкавіцкі, клецкі, пухавіцкі строі), кампанаваўся ўзорыстымі паскамі па ўсёй даўжыні (кобрынскі, пінска-івацэвіцкі строі); ніжні край часта канчаўся карункамі, фальбонамі, мохрыкамі. Вядомы 1-полкавыя Ф., кроеныя з пярэстых, накшталт панёманскіх дываноў, шлячковых тканін (дамачаўскі, турава-мазырскі, краснапольскі строі), у выглядзе аднамаснай чорнага колеру полкі валенага сукна (неглюбскі строй). У 1-й пал. 20 ст. пашырыўся Ф. з каляровага ўзорыстага паркалю, аздобленага нашыўкамі стужак. У наш час традыцыйна Ф. носяць некаторыя пажылыя жанчыны (пераважна на Палессі і ў Падняпроўі). *М. Ф. Раманюк.*





**Фартух** (двухполкавы). Вёска Навасёлкі Кобрынскага раёна. 1930-я г.

**Фартух** (аднаполкавы). Вёска Загор'е Чачэрскага раёна. 1920-я г.



**Фартух** (двухполкавы). Вёска Дражна Старадарожскага раёна. Пачатак 20 ст.



**М. Федароўскі.**

некалькі гадзін. У адцэджаным адвары матэрыял некалькі разоў замочвалі і высушвалі. Ільняную пражу і тканіну фарбавалі адварам кары дуба, ясеня, крушыны, а таксама адварам з жалудоў або мучаніку. У жоўты колер фарбавалі адварам з кары барбарысу, бярозавых каташкоў, валошкі, настоем цыбульніку, альховай кары, з дабаўленнем лугу (у кіпячую ваду клалі мяшэчак з попелам), адварам кары яблыні. Для Ф. ў чырвоны колер гатавалі адвар валошкі з альховай карой. Калі ў адвар з альховай кары дадавалі попел рабінавай кары або адвар мацярдушкі (матэрыял замочвалі на 3—4 гадзіны), таксама атрымлівалі чырвоны колер. У такі ж колер фарбавалі адварам сырой рабінавай кары (тканіну варылі

**ФЕДАРО́ЎСКІ** (Federowski) Міхал (1.9.1853, Варшава — 10.6.1923), польскі і беларускі этнограф, фалькларыст, археолаг. Чл. Львоўскага этнагр. т-ва (1896), Антрапалагічнай камісіі Акадэміі ведаў у Кракаве (1899), Польскага краязнаўчага т-ва, Т-ва сяброў навук у Вільні і інш. Скончыў Варшаўскую прагімназію (1870). У 1873—74 вольны слухач Пятроўска-Разумоўскай акадэміі (пад Масквой). У 1875—77 даследаваў польскі фальклор і этнаграфію (манаграфія «Люд ваколіц Жарак, Севежа і Пiліцы...», т. 1—2, 1888—89). У 1877—1904 даследаваў Зах. Беларусь — матэрыяльную і духоўную культуру, збіраў кнігі, гіст. дакументы, творы жывапісу і графікі, раскопваў курганы, стараж. паселішчы і могільнікі, збіраў матэрыялы для археалагічнай карты дагіст. Беларусі і інш. Сабраў каля 5 тыс. бел. нар. песень (больш як 1,5 тыс. бел. песенных і танцавальных мелодый для Ф. запісалі Я. Карловіч, Л. Патул, І. Трачык), каля 10 тыс. прыказак, сотні казак, загадак, нар. павер'яў, забабонаў, прымхаў, парад па нар. медыцыне. Фальклорныя матэрыялы ўвайшлі ў працу «Люд беларускі» (т. 1—8, 1897—1981). Сярод рукапісаў Ф. — вялікая колькасць фальклорных запісаў, апісанні фізічных і духоўных рыс народа, рамёстваў (ткацтва, ганчарства, цяслярства, кавальства), промыслаў, заняткаў насельніцтва, вясковага будаўніцтва, прылад працы і с.-г. начыння, дзіцячых гульняў, танцаў, батлеечных спектакляў і інш. Ф. марыў выдаць асобны том пад назвай «Матэрыяльная і духоўная культура беларускага народа і шляхты». Сярод нататак да гэтага тома шматлікія апісанні абрадаў гадавога цыкла (калядныя, веснавыя, юраўскія, купальскія, жніўныя і інш.), вясельных, хрэсь-

бінных, пахавальных абрадаў і звычаяў, грамадскіх, сямейна-бытавых звычаяў, тапаграфічна-этнагр. запісы, запісы пра дагіст. стаянкі на Беларусі, звесткі пра знахарства, лячэнне, рэлігійныя погляды беларусаў; 4283 аркушы моўных нататак вучонага, якія вельмі пільна занатоўваў лексіку мясцовых гаворак, намерваючыся выдаць яе як дапаўненне да слоўніка І. І. Насовіча, і інш. Рукапісная спадчына Ф. зберагаецца ў рукапісным аддзеле б-кі Варшаўскага ун-та, у Навуковым архіве Польскага этнагр. т-ва (Вроцлаў), архіве Польскай АН.

*Тв.:* Zbiory graficzne Dominika Wittke-Jeżewskiego. Warszawa, 1913; Wspomnienia moje o Michale Połeskim i o Włodowicach. Warszawa, 1917.

*Літ.:* Саламевіч Я. Міхал Федароўскі. Мн., 1972; Kozerska H. Michał Federowski, etnograf i zbieracz dokumentów historycznych na Białorusi Zachodniej (1853—1923)//Slavia Orientalis. 1957. Rocz. 6; Katalog rękopisów Biblioteki Uniwersyteckiej w Warszawie. T. 2. Warszawa, 1973. *І. У. Саламевіч.*

**ФЕТЫШЫ́ЗМ** (франц. fétichisme ад партугальскага feitiço амулет), вера ў звышнатуральныя ўласцівасці прыродных (камяні, дрэвы) або зробленых чалавекам (статуэткі, крыжы) неадушаўлёных прадметаў (фетышаў), пакланенне ім. Папярэднічаў *анімізму* і адлюстраваў пачатковую форму падавення нежывой прыроды, калі фантастычныя вобразы яшчэ не аддзялялі ад саміх матэрыяльных прадметаў, якім прыпісвалі фантастычныя рысы: здольнасць вылечваць ад хвароб, ахоўваць жыллё, поле і інш. З Ф. звязаны першыя стараж. формы мастацкага ўвасаблення (фетышамі часта служылі стараж. скульптуры, у т. л. зааморфныя і антрапаморфныя статуэткі). Ф. з'яўляецца састаўным элементам усіх сусветных рэлігій (вера ў звышнатуральныя ўласцівасці крыжа, абраза ў хрысціян, святых месцаў і «чорнага каменя» ў мусульман і інш.). Ф.— прыкметная рыса нар. вераванняў у беларусаў і інш. народаў, напр., вера ў звышнатуральныя ўласцівасці пэўных камянёў лячыць ад хвароб (такім камяням ахвяроўвалі грошы, палатно).
*М. Ф. Піліпенка.*

**ФІРА́НКІ**, выраб з тканіны для завешвання і ўпрыгожвання акон. У сялянскім побыце вядомы з канца 19 ст. Ф. рабілі звычайна з 2 кавалкаў палатна, паркалю, марлі; аздаблялі вышыўкай, натыканнем, гафтаваннем, набойкай, складкамі, фальбонамі. Пашыраны былі Ф. з разнаколернай паперы, аздобленыя *выцінанкамі*, а таксама маляваныя. Асноўныя арнаментальныя матывы — вазон ці букет кветак пасярэдзіне або гірлянда кветак у адным з вуглоў. Узорыстыя Ф. разам з ручнікамі, абрусамі і посцілкамі ўваходзілі ў пасаг маладой, ствaралі мастацкі ансамбль інтэр'ера сялянскай хаты. Бытуюць і ў наш час. *М. Ф. Раманюк.*



**Фіранкі.** Салігорскі раён (злева), Пружанскі раён. 1980-я г.



**ФЛЯНДРО́ЎКА**, спосаб аздаблення драўляных і керамічных вырабаў, заснаваны на расчэсванні свежага фарбавага слою ў выглядзе зігзагаў, хваль, палос. Вядома з канца 19 ст. Шафы, камоды, куфры, ложкі, зробленыя з хвоі, бярозы, фарбавалі алейнымі фарбамі жоўта-карычневых адценняў, потым гумавым ці скураным грабеньчыкам наводзілі хвалевыя палосы, якія імітавалі фактуру каштоўнай драўніны. Пастухова ў Ф. былі выпрацаваны ўласныя арнаментальна-дэкаратыўныя прыёмы, якія найбольш ярка выявіліся ў аздабленні куфраў. Паверхню іх фарбавалі ў светлы колер (звычайна белы), высушвалі, потым наносілі слой фарбы больш цёмнага колеру (блакітнага, зялёнага, малінавага) і грабеньчыкам наводзілі палосы, высвечваючы ніжні светлы фон. Такім спосабам пярэднюю сценку і века куфра дзялілі на квадраты і прамавугольнікі, якія абламоўвалі маляваныя сюжэты; бакавыя і заднюю сценкі наводзілі хвалістымі палосамі ў выглядзе касой сеткі (гл. *Агоўскія куфры*). Керамічны посуд пакрывалі паясамі белага ці карычневага ангобу, якія расчэсвалі ў выглядзе густых хваль. Найбольш ярка Ф. праявілася ў аздабленні *івянецкай керамікі* 20 ст. Каляровыя палосы рабілі ўпрытык, таму зубчастыя густыя хвалі, нанесеныя на лініі іх судакранання, утваралі агульныя зацёкі колераў. *Я. М. Сахута.*

**ФО́РТКА**, 1) лёгкія дзверы для ўваходу з вуліцы ў двор ці са двара на агарод, у сад; тое, што і *весніцы*. 2) Шкляныя дзверцы ў акне для праветрывання памяшкання.

**ФРАНТО́Н** [франц. fronton ад лац. frons (frontis) лоб, пярэдні бок], канструкцыйны элемент хаты і гаспадарчых пабудоў; частка фасада, абмежаваная схіламі *страхі* і *карнізам*. Форма Ф. вызначаецца формай страхі. На Беларусі звычайна 3-вугольны, радзей трапецападобны (усечаны зверху), як правіла, з акенцам. Да 2-й пал. 19 ст. Ф. зашывалі саломай, заплятaлі лазой ці рабілі закотам, пазней зашывалі дошкамі, звычайна вертыкальна. Нярэдка Ф. аздабляюцца разьбой, маст. укладкай шалёўкі («квадратам», «ромбам», «у елачку» і інш.), дэкаратыўнымі накладкамі, якія ўтвараюць геам. арнамент. На З Брэстчыны (Камянецкі р-н) такі дэкор дапаўняецца дэкаратыўнымі вынаснымі франтончыкамі, размешчанымі пад *вільчыкам*. Ф. жылля Цэнтр. Палесся (Лельчыцкі, Столінскі, Пінскі р-ны) вызначаецца багаццем салярных матываў: выкладзенымі шалёўкай палавінкамі і чвэрткамі сонечнага дыска з промнямі, шматпялёсткавымі разеткамі з шалёўкі, якія часам акаймоўваюць круглыя акенцы. Дэкор Ф. звычайна дапаўняецца разьбянымі *закрылінамі* і фігурным вільчыкам. У 1960—80-я г. масавае пашырэнне набыла паліхромная расфарбоўка шалёўкі Ф., часта ў некалькі колераў ці розных адценняў аднаго колеру. Сустракаюцца Ф. з багатай рэльефнай разьбой і расфарбоўкай з уключэннем раслінных матываў, выяў птушак, жывёл, людзей, сюжэтных сцэнак і інш. (жылы дом па вул. Кавалёва ў г. Ветка); нярэдка ў кампазіцыю ўключаюцца прапілаваныя і вытачаныя дэкар. элементы (жылы дом у г. п. Старобіне). Звычайна дэкор Ф. арганічна звязаны з характарам аздаблення ўсяго будынка.
*Я. М. Сахута.*



**Фляндроўка** на керамічных вырабах.

**ФУГА́НАК,** г э б е л ь, стругальны дрэваапрацоўчы інструмент. Складаецца з доўгага (да 1 м) бруска, у сярэдзіне якога ў спецыяльнай адтуліне замацоўваецца жалезнае лязо. Найчасцей мае з аднаго боку ручку. Ф. без ручкі называўся спускам (ці спустам), шырока выкарыстоўваўся для апрацоўкі бандарнай клёпкі (з гэтай мэтай яго замацоўвалі нерухома ў варштаце лязом уверху). У нар. практыцы Ф. пашырыўся праз цэхавае рамяство.
*В. С. Цітоў.*

**ФУНТ** (польск. funt ад ням. Pfund ад лац. pondus вага, гіра), даўняя мера масы. У Вял. кн. Літоўскім велічыня Ф. вагалася ад 360 да 450 г, з 1766—374,82 г. У Расіі Ф. раўняўся 409,5 г.

**ФУ́Р,** вялікія калёсы для перавозкі грузаў, паклажы. Магла быць з будой. Лакальная назва хура.



часова з 1967 заг. сектара фальклору). Даследуе сатырычныя жанры бел. фальклору, фальклор перыяду Вял. Айч. вайны, гісторыю фалькларыстыкі. Адзін з аўтараў кн. «А. К. Сержпутоўскі» (1966, з В. К. Бандарчыкам), «Беларуская народнапаэтычная творчасць» (1979). Складальнік тамоў «Сацыяльна-бытавыя казкі» (1976), «Жарты, анекдоты, гумарэскі» (1984) са зводу «Беларуская народная творчасць» (гал. рэдактар зводу; за кіраўніцтва і ўдзел у складанні Дзярж. прэмія БССР 1986). Старшыня фальклорнай камісіі Бел. фонду культуры, член міжнар. камісіі слав. фальклору пры Міжнар. камітэце славістаў, член Бел. камітэта славістаў, член бюро навук. савета АН СССР па фальклору.

*Тв.:* Антырэлігійныя матывы ў беларускім фальклоры. Мн., 1963; Беларуская народная сатырычная проза. Мн., 1969; Трапным народным словам. Мн., 1971; Развіццё беларускай савецкай фалькларыстыкі. Мн., 1977; Праблемы беларускай народнай сатыры. Мн., 1978; Народная паэзія барацьбы. Мн., 1981; Фальклор і «масавая культура». Мн., 1986; Беларуская савецкая фалькларыстыка. Мн., 1987.
*А. Ю. Лозка.*

вышыні 60—80 см ад падлогі да яго гарызантальна прымацоўвалі другі шост (даўжынёй 100—150 см) з абручом на канцы, куды ставілі дзіця, якое хадзіла па крузе. Пазней Х. рабілі ў выглядзе невялікага абруча з тонкай ляшчыны ці лазіны з ножкамі. У наш час падобныя Х. робяць з ножкамі на калёсіках, што аблягчае рух дзіцяці.

**ХАК,** прылада для здабывання *жывіцы*; тое, што і *разец.*

**ХАЛАДЗЕ́Ц,** традыцыйная мясная страва, звычайна са свініны; тое, што і *квашаніна.*

**ХАЛАДНІ́К,** 1) страва з пер'я цыбулі. Называлі таксама халадзец, таўкун. Пер'е рэжуць, пераціраюць з соллю, залiваюць квасам або кіслым малаком, дадаюць (калі ёсць) агуркі, радыску. 2) Страва са шчаўя. Шчаўе крышаць, вараць і астуджваюць. У адвар крышаць свежыя агуркі, кроп, вараныя яйцы, дадаюць смятану, соль. Гатуюць Х. таксама з вараных буракоў, бацвіння або на бурачным ці хлебным квасе.

**«ХАЛІМО́Н»,** старажытны карагод. Усе ўдзельнікі карагода станавіліся ў круг



Фуганак.

Франтон з разьбой. Горад Ветка.

Дэкор **франтона.** Гарадскі пасёлак Тураў Жыткавіцкага раёна. Канец 19 ст.

**ФЭСТ** (ад лац. festum свята, святкаванне, святочная бяседа), свята на сяле, на якое прыязджалі з суседніх вёсак родныя, сваякі, сябры, знаёмыя. Наладжвалася святочнае застолле, нар. гулянне, кірмашы. Адбывалася ў дні мясцовага царкоўнага (храмавага) свята. У наш час у некаторых мясцовасцях узамен Ф. праводзяць безрэлігійнае *Свята вёскі.*

**ФЯДО́СІК** Анатоль Сямёнавіч (н. 7.2. 1925, в. Кашэвічы Петрыкаўскага р-на), беларускі сав. фалькларыст. Д-р філал. навук (1974), прафесар (1981). Чл. КПСС з 1951. Скончыў БДУ (1953). З 1946 настаўнічаў на Палессі. З 1961 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1962 вучоны сакратар, з 1969 нам. дырэктара, адна-



**ХАДУ́ЛІ,** высокія жэрдкі з выступамі для ног. Лакальная назва калдыбы. Служылі для пераходу праз рэчкі, канавы і як дзіцячая забава.

**ХАДУНО́К,** прыстасаванне, пры дапамозе якога дзеці вучыліся хадзіць. Вядомы два тыпы. Найбольш старажытны Х.— шост, які свабодна ўстаўляўся ў адтуліны ў бэльцы і падлозе. На

і спявалі: «Куды ты едзеш, Халімон? // Куды едзеш, браце мой? // Не маеш шапкі на выбар? // Бяры сабе шапку на выбар». Пры гэтых словах саліст, які хадзіў унутры круга, выбіраў шапку і надзяваў яе на галаву. Затым хор прапаноўваў Халімону каня і шаблю. Саліст браў кій і рабіў выгляд, быццам едзе на ім верхам, драўлянай шабляй стукаў у падлогу. І нарэшце карагод прапаноўваў Халімону дзяўчыну на выбар. Той браў дзяўчыну і танцаваў з ёй у крузе. Карагод зафіксаваны П. В. Шэйнам у Себежскім пав. Віцебскай губ. У наш час сустракаецца рэдка.

**ХАЛУ́ПНІКІ,** беззямельныя і малазямельныя сяляне на Беларусі ў 16—19 ст. Маёмасць Х. складалася часцей за ўсё з хаты (халупы) і невялікай колькасці жывёлы. У Вял. кн. Літоўскім Х. не адраблялі паншчыны і не плацілі аброку, але штогод плацілі феадалу,





Хамуты.

на зямлі якога жылі, т. зв. паседзінкі (2—4 злотых). Малазямельныя Х. ў 17 ст. зліліся з *цяглымі сялянамі*. У 19 ст. плацілі падушны падатак.

**ХАМУ́Т,** асноўная частка *вупражы*. Надзяваецца на шыю каня. У Еўропе Х. быў пашыраны ў 1-м тысячагоддзі. На Беларусі, паводле археалагічных знаходак, вядомы з 11 ст. Прататыпам Х. была шляя. Са з'яўленнем Х. вупраж у асноўным набыла сваю сучасную канструкцыйную форму. Х. складаецца з двух драўляных паўдужжаў (клешчаў), абцягнутых лямцам і скурай; знізу лямец прадаўжаецца мяккім валікам (саламяны жгут, абцягнуты скурай), што прылягае да падгрудка жывёлы; ніжнія канцы клешчаў выходзяць вонкі і ў рабочым стане сцягваюцца супоняй. Х. у сістэме вупражы вызначае яе тып. Хамутовая вупраж найбольш пашырана ў параўнанні са шлейнай і ярэмнай. У хамутна-аглабельнай запрэжцы Х. мае па баках гужы, за якія з дапамогай дугі мацуюцца аглоблі. У хамутна-пастронкавай запрэжцы пастронкі звычайна мацуюцца непасрэдна да Х. *В. С. Цітоў.*

**ХАПУ́Н,** традыцыйная рыбалоўная снасць. Сучасная назва павук. Да канцоў двух тонкіх драўляных дуг, перакрыжаваных змацаваных паміж сабой, прывязвалі 4-вугольнае сеткавае палотнішча, краі якога ўмацоўвалі тонкімі шнурамі. У месцы перакрыжавання дуг прывязвалі доўгую палку. У дарэвалюцыйны час і пазней Х. лавілі звычайна вясной з берага, з лодак і мастоў. Гэты спосаб быў пашыраны ў рыбалоўстве на Паазер'і. У паслярэвалюцыйны час дугі Х. пачалі рабіць з пругкіх металічных прутоў, а сетку вязаць з сінтэтычнай лёскі. У наш час лавіць Х. рыбу забаронена. *І. М. Браім.*

**«ХА́РТЫ І ЗАЙЦЫ»,** гульня. Вядома таксама пад назвамі «У зайца», «Лавіць зайца», «Бабёр» і інш. З дапамогай лічылак ці «выцягвання палачак» выбіраюцца «матка» і «хорт». «Матка» крычыць: «Хорт у поле! Зайцы, дамоў!». Усе ўцякаюць ад «харта» да «маткі». За парушэнне ўмоў гульні існуюць асобныя пакаранні. У некаторых варыянтах «зайцы» стаяць у крузе, узяўшыся за рукі, праз якія даюць магчымасць уцячы «зайцу» і затрымліваюць «харта». Гульні з удзелам «зайцаў», магчыма, трансфармавaліся з абрадаў ушанавання жывёльнага культу, карагодных гульняў (гл. *«Заінька»*), танцаў-гульняў (гл. *«Заяц»*). *А. Ю. Лозка.*



Хапун.

**ХАРУ́ЗІН** Аляксей Мікалаевіч [29.2 (12.3).1864, Масква — 1933), рускі этнограф, археолаг і антраполаг. Вывучаў побыт паўд. славян, народаў Каўказа, Крыма і Сярэдняй Азіі, удзельнічаў у распрацоўцы навуковых асноў этнагр. аддзела Рускага музея ў Ленінградзе. На пач. 20 ст. працаваў у канцылярыі Віленскага генерал-губернатара, рэдагаваў перыядычны зб. «Виленский временник» і вывучаў бел. нар. жыллё. Сабраў значныя матэрыялы па традыцыйнаму жыллю беларусаў, пераважна з Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губ. Аўтар працы «Славянскае жыллё ў Паўночна-Заходнім краі» (Вільня, 1907), у якой з пазіцый эвалюцыянізму разглядаў бел. жыллё ў кантэксце з жыллём інш. слав. народаў (гал. чынам паўд. і зах. славян).

*Тв.:* Материалы по истории развития славянских жилищ. Жилище словинца Верхней Крайны // Живая старина. М., 1902. Вып. 3—4. *В. К. Бандарчык.*

**ХАРЭАГРАФІ́ЧНЫ ФАЛЬКЛО́Р,** гл. ў арт. *Народны танец*.

**ХА́ТА,** традыцыйны тып *жылля* сельскіх жыхароў; асноўнае збудаванне сядзібнага комплексу. Як тып жылля развілася ад *будкі* і зямлянкі да наземнай пабудовы зрубнай канструкцыі. Спачатку будавалі без сянец, з печчу без коміна *(курная хата)* і вузкімі акенцамі (з засаўкамі). У 19 ст. курная Х. выцеснена т. зв. белай (печ з комінам), а яе аднакамерная планіроўка — двухкамернай (хата + *сенцы*) і трохкамернай (хата + сенцы + хата і хата + сенцы + гасп. пабудова — *клець, камора*). Будаўнічая тэхніка і асн. канструкцыйныя элементы сучаснай традыцыйнай Х. склаліся ў 18 ст. Адзіным буд. матэрыялам з даўніх часоў на Беларусі была драўніна. Будавалі Х. найчасцей з хвоі і елкі. На падрубу выкарыстоўвалі дуб. Іншыя пароды дрэў у жыллёвым будаўніцтве амаль не выкарыстоўвалі, хаця пры раскопках стараж. замчышчаў некаторых бел. гарадоў 10—12 ст. выяўлены рэшткі жылля з некалькімі бярозавымі вянкамі. Зруб Х. вязалі з акоранага або ачэсанага бярвення. На ПдЗ Брэстчыны (Брэсцкі, Кобрынскі, Маларыцкі, Пружанскі р-ны) Х. рубілі з *дыляў*. Бярвёны-дылі звязвалі ў вянкі *вугламі* — простым («у чашку», «у просты замок»), чыстым («у лапу», «гладкі», «нямецкі»). На Брэстчыне вядомы т. зв. вугал «у каню», а на Гродзеншчыне яго разнавіднасць — «зубчасты» вугал. Да 19 ст. пры пабудове жылля зрэдку ўжывалася тэхніка будаўніцтва «ў шулы» (слупавая, закідная). Першы вянок падрубы звычайна клалі на валуны або дубовыя штандары, падстаўленыя толькі пад вуглы, зрэдку Х. ставілі проста на зямлю. Каменны фундамент вядомы з 19 ст., але прыкметнае пашырэнне ён атрымаў з пач. 20 ст. У 19 ст. ў бел. Х. пераважала земляная і глінабітная падлога (ток, тачок, дол). У канцы 19 ст. яе пачала выцясняць драўляная падлога. Найбольш старажытная разнавіднасць столі (століна, сталяванне, пацёс, пакот) — скляпеністая з бярвення, пазней з дошак. Генетычна яна звязана з канструкцыяй страхі *закотам* і курнай сістэмай апалу. Пашырэнне чыстых (белых) Х., развіццё і ўдасканаленне буд. тэхнікі выцеснілі скляпеністую столь. Яе замяніла гарызантальная. Паступова выпрацавалася некалькі спосабаў укладкі дошак столі: уразбежку, унакладку, упрытык. Канструкцыйна ў сялянскай Х. вылучаюцца 3 тыпы страхі (даху): на кроквах (самы пашыраны), на дзядах, закотам. Апошнія дзве канструкцыі найб. пашыраны ў гасп. пабудовах. Традыцыйным пакрыццём стрэх здаўна былі салома (на Палессі чарот), дошкі, дранка (дор), гонта. З 19 ст. ўжываецца чарапіца і бляха. Традыцыйны *інтэр'ер хаты* склаўся ў працэсе працяглага

прыстасавання ўнутранай прасторы жылля да бытавых і гасп. патрэб сялянскай сям'і. Раней яго абсталяванне было нескладанае і вылучалася утылітарнай сціпласцю, практычнасцю і эканамічнасцю выкарыстання жылой плошчы.

Сацыялістычная перабудова вёскі прывяла да істотных змен у нар. жыллі. Побач з драўлянымі Х. цяпер у вёсцы будуюць цагляныя, блочныя, панельныя дамы. Амаль цалкам зжыў сябе драўляны фундамент, знікае салома як дахавы матэрыял. З сучасных відаў пакрыцця найб. попытам карыстаецца шыфер і жалеза. Удасканальваюцца буд. канструкцыі. У наш час усе Х. ў вёсцы будуюць на фундаменце, з драўлянай падлогай, у чысты вугал, вельмі часта абшываюць шалёўкай. Канструкцыя даху на кроквах цалкам замяніла ў жыллёвым будаўніцтве архаічныя канструкцыі закотам і на стаяках. Х. будуюцца прасторныя (звыш 40 м$^2$, вышынёй ад 2,8 да 3 м), з архітэктурнымі ўпрыгожаннямі. Эвалюцыя закранула і вокны: павялічыліся іх колькасць і памеры. Іншым стала ўнутр. абсталяванне вясковай Х. Традыцыйны інтэр'ер, які складваўся вякамі, не адпавядае новым планіровачным рашэнням, матэрыяльнаму становішчу, патрэбам селяніна, новым формам гасп. дзейнасці. Сялянская Х. па ўнутр. планіроўцы ўсё больш нагадвае гарадскую кватэру: 3—4 пакоі, кухня, фабрычная мэбля, фабрычныя дываны, гардзіны, фарбаваная падлога, электрычнасць, газ, швейныя і пральныя машыны, тэлевізары, радыёпрыёмнікі — усё гэта надае інтэр'еру сучаснае аблічча. Разам з тым у інтэр'еры вясковай Х. шырока бытуюць традыц. элементы ўпрыгожвання: вышываныя ручнікі, саматканыя палавікі і дываны — прадметы, якія заўжды на Беларусі вызначаліся высокім маст. узроўнем.

*У. С. Гуркоў.*

**ХАЎТУ́РЫ,** 1) цыкл сямейных звычаяў і абрадаў, звязаных з ушанаваннем памяці нябожчыка і праводзінамі яго ў апошні шлях; тое, што і *памінкі.* 2) Пасля пахавання жалобны стол, абед па нябожчыку.

**ХЛЕБ,** адзін з асноўных прадуктаў харчавання, які выпякаецца з мукі розных збожжавых раслін. Вядомы продкам беларусаў з агульнаслав. часоў. Прататыпам Х. была цёртая *груца.* Знаходкі зерняцёрак у археалагічных пластах 3 тысячагоддзя да н. э. (культура грабеньчата-накольчатай керамікі) сведчыць пра сістэматычныя прыгатаванні мучных вырабаў. Спачатку Х. выпякалі з прэснага цеста. Выкарыстанне ўкіслага цеста павысіла смакавыя якасці Х., падоўжыла тэрмін яго захавання. Тэхналагічны працэс прыгатавання Х. мала змяніўся на працягу многіх стагоддзяў і выяўляе значнае падабенства ў многіх народаў. Ён складаецца з некалькіх стадый: прыгатаванне цеста, яго вытрымка (квашэнне) і выпяканне Х. Цеста рашчынялі на цёплай вадзе з вечара ў спецыяльнай хлебнай *дзяжы.* У якасці акісляючага кампанента выкарыстоўвалі рошчыну (рэшткі кіслага цеста ад папярэдняй выпечкі), радзей хлебны квас, дрожджы. Каталізатарам служыла і сама пасудзіна (найлепшай лічылася дзяжа, зробленая з дубовых клёпак). Дзяжу з цестам ставілі ў цёплае месца, накрываючы яе палатнянай сурвэткай-надзежнікам і векам, а паверх яшчэ цёплай посцілкай ці кажухом. Зранку цеста мясілі, дабаўляючы муку, і зноў ставілі ў цёплае месца, каб цеста лепш укісла і падышло. Пасля прапальвання печы цеста бралі з дзяжы і ў руках выкачвалі круглыя боханы, якія выкладвалі на драўляную лапату, пасыпаную тонкім слоем мукі. Нярэдка пад боханы падкладвалі капусныя, дубовае, кляновае, аеравае ці хрэнавае лісце. З дапамогай лапаты Х. саджалі ў печ на чысты под. Пяклі таксама фармавы Х. у круглых або кантовых бляшаных формах. Да сярэдзіны 20 ст. Х. выпякалі звычайна ў хатніх умовах 1 раз у тыдзень. За адзін раз пяклі 5—8 боханаў сярэдняй вагой 10—15 фунтаў. З хлебнага цеста выпякалі таксама *праснакі* (лапуны, скавароднікі).

Спажыўныя якасці Х.— смак, арамат, каларыйнасць, мяккасць, наздраватасць і інш.— залежалі ад віду і гатунку мукі, наяўнасці састаўных кампанентаў (дамешкаў), рэцэптуры і тэхналогіі прыгатавання. У беларусаў здаўна асноўным у харчаванні быў жытні (чорны) Х. На святы выпякалі пшанічныя пірагі з начынкай і без яе; у якасці начынкі ўжываліся вантробы, тварог, яйкі — у скаромныя тыдні і каша, мак, грыбы, рыба — у посныя дні. Нярэдка жытнюю муку змешвалі з аўсянай, ячменнай, пшанічнай, грэчневай, гарохавай у пэўных прапорцыях: звычайна бралі адну палову жытняй, другую — якой-небудзь іншай мукі. У якасці дамешкаў да жытняй мукі ўжывалі і бульбу (Х. бульбяны). Жытні Х. розніўся таксама гатункам мукі, яе памолам, наяўнасцю мякінных рэштак. Звычайным на стале бел. селяніна быў Х. з ачышчанага і перавеянага збожжа (Х. шатраваны). Муку, атрыманую з ачышчанага збожжа, нярэдка прапускалі праз рэшата або сіта (Х. пытляваны, сітны). Сітны Х. (чысцяк, пірог) выпякалі на свята, яго падносілі і як дар дарагім гасцям. У будныя дні многія сяляне апрача шатраванага ўжывалі ў ежу і т. зв. пушны Х. з мякіннымі рэшткамі. У крайняй нястачы «святая мякінка» складала да паловы саставу Х. Пра такі Х. казалі: «Па ім калі чорт прабяжыць, дык нагу заскабіць». Асабліва цяжка прыходзілася ў пачатку вясны ў галодныя гады, якімі на Беларусі былі 1812, 1831, 1863, пачатак 1920-х і 1930-х гг. Тады ў Х. дабаўлялі лебяду, высушанае і патоўчанае лісце маладой папараці, балотнага бабоўніку, верасу, капытніку, вадзяных гарлачыкаў, кветкі канюшыны, дзятліны, а таксама тоўчаныя жалуды, бярозавую кару і інш.

Х. у беларусаў, як і ў іншых земляробчых народаў, здаўна служыў сімвалам жыцця і дабрабыту. Ён быў свайго роду сямейным талісманам, свяшчэннай рэліквіяй. Яго абагаўлялі, з ім наводзілі сябе, як з жывой істотай. Калі выпадкова падаў з рук кавалачак Х., яго асцярожна падымалі, прасілі прабачэн-



**Хата** калгасніка. Вёска Вязань Дзяржынскага раёна.



Традыцыйная сялянская **хата.** Пауд.-зах. Брэстчына. Канец 19 ст.

ня і з'ядалі, каб ён «не скардзіўся». Прыгатаванне Х. лічылася свяшчэнным дзействам, з якім было звязана мноства звычаёвых правіл, абрадавых норм, павер'яў, абярэгаў. Перш чым мясіць цеста (рашчыняць хлеб), жанчына павінна была чыста памыцца і перахрысціцца, прызваўшы ў сведкі бога, каб Х. удаўся і добра падышоў. Не раілася рашчыняць Х. у кепскім настроі, бо гэта, паводле павер'я, уплывала на яго якасць («цеста будзе вадзяное і хлеб у печы расплывецца»). Пры пасадцы Х. непажадана было каму-небудзь знаходзіцца на печы, дзеці павінны былі злезці з яе. Калі Х. выпякаўся ў печы, не раілася ў гэты час гучна размаўляць, спрачацца ў доме, прымаць выпадковых наведвальнікаў («хлеб можа патрэскацца»). З такой далікатнасцю і пашанай адносіліся і да начыння, якім карысталіся для прыгатавання Х., асабліва дзяжы. Пасля абеду акраец Х., загорнуты ў чысты ручнік, звычайна пакідалі на стале. Х. быў увасабленнем дастатку і працавітасці і вызначаў сацыяльны статус і аўтарытэт сям'і ў сельскім грамадстве. Ён займаў пачэснае месца не толькі ў матэрыяльным, але і ў духоўным жыцці беларусаў, у шматлікіх звычаях, прыкметах, павер'ях. Х. быў неабходным атрыбутам разнастайных абрадаў, урачыстасцей і свят — сватаўства, вяселля, радзін, адкрыцця вясновых палявых работ (заворвання), закладкі новай хаты і інш. Хлебам-соллю сустракалі дарагіх гасцей. Як рэалія і ідэйна значымае паняцце Х. фігуруе ў шматлікіх выслоўях, прыказках і прымаўках, што адлюстроўваюць жыццёвую мудрасць, маральныя ацэнкі, этнічную псіхалогію (нацыянальныя рысы характару) і нормы паводзін у розных жыццёвых сітуацыях: «Хто сее хлеб, той сее праўду»; «Хлеб, дабыты пачэснай працай, салодкі ўдвайне»; «Дзе гаспадар ходзіць, там хлеб родзіць».

*В. С. Цітоў.*

**ХЛЕ́БНІЦА,** пасудзіна для заквашвання цеста, бандарны выраб; тое, што і *дзяжа*.

**ХЛЕЎ,** традыцыйная гаспадарчая пабудова для ўтрымання свойскай жывёлы. Х. вядомы са старажытнасці, у славян паявіліся не пазней 5 ст. н. э. Прымітыўныя збудаванні для ўтрымання і аховы жывёлы ад холаду, ападкаў, драпежных звяроў існавалі і ў больш далёкім мінулым, без чаго немагчыма развіццё жывёлагадоўлі. Папярэднікамі Х. лічаць розныя загоны і *павеці*, якія шырока бытуюць і цяпер у пауд. славян. На Беларусі, дзе маразы не дазвалялі зімой утрымліваць жывёлу на двары, генезіс Х., відаць, звязаны з жылым памяшканнем. З наступленнем маразоў беларус пераводзіў жывёлу, асабліва маладняк (цялят, парасят, ягнят) у хату. Звычай гэты, як перажытак, сустракаўся ў некаторых раёнах і ў нядаўнім мінулым. З цягам часу жывёлу зімой пераводзілі спачатку ў сенцы, пазней — у прыбудаванае да іх памяшканне, злучанае з імі дзвярыма. Доўгі час сенцы заставаліся месцам кармлення жывёлы. Такое размяшчэнне Х. характэрна было для Гродзеншчыны і Брэстчыны. На Віцебшчыне да глухой сцяны хаты прыбудоўвалі яшчэ адзін Х. з аднасхільнай страхой, куды рабілі два ўваходы — з сянец і панадворку. Звычайна ў такіх Х. утрымлівалі свіней. Слова «Х.» як назва пабудовы для ўтрымання жывёлы пашырана на Беларусі паўсюдна. У шэрагу мясцовасцей бытуюць і рэгіянальныя назвы. Так, у Лельчыцкім раёне памяшканне для коней, кароў і авечак называюць *адрынай*; на Міншчыне Х. для буйной рагатай жывёлы называюць *аборай*, на Віцебшчыне так называюць усе пабудовы для жывёлы — Х., *дзяннік* і павець. Памяшканне для коней на большай частцы Беларусі называюць *стайняй* (адсюль — стаеннік), на Магілёўшчыне — канюшняй. Часта, калі жывёла знаходзілася ў асобных пабудовах, назвы Х. утвараліся ад назвы жывёлы: цялятнік, свінарнік, свінушнік, кароўнік, аўчарня і г. д. У некаторых мясцовасцях па аналогіі так называюць загарадкі з лёгкіх жэрдак для рознай жывёлы, нават калі яна размешчана ў адным вял. Х. Раней усе гаспадарчыя збудаванні ўзводзілі выключна з дрэва. Дрэва на гэтыя мэты ішло другараднае, часцей за ўсё верхавіны з хвойных парод, асіна, вольха і інш. Да канца 20 ст. зруб Х. ставілі на зямлю без падвалін, ад чаго ніжні вянец хутка згніваў, Х. асядаў і перакошваўся.

Групаваліся Х. ўпрытык адзін да аднаго і пад агульнай страхой, што спрыяла складванню пэўнага тыпу сядзібы. Калі Х. не прыбудоўвалі да сянец, а ставілі на пэўнай адлегласці, між імі ўтваралася свабодная прастора, якую выкарыстоўвалі як павець, дзе захоўваліся с.-г. прылады, або дзяннік, дзе ўлетку трымалі жывёлу. *У. С. Гуркоў.*



**Хлеў.** Вёска Мацуты Пастаўскага раёна.

**ХО́ДАСАВІЦКАЕ СВЯЦІ́ЛІШЧА,** этнаграфічны аб'ект і, верагодна, помнік язычніцкага культу. Знаходзіцца каля в. Ходасавічы Рагачоўскага р-на, на беразе возера Святое (Добрае). Размяшчалася на канцавым мысе пясчанай дзюны, на тэрыторыі раннесярэднявечнага селішча. Помнік выяўлены і раскопваўся ў 1969 А. В. Кузой і Г. Ф. Салаўёвай.

Цэнтральную частку Х. с. складае круг (дыяметр 7 м), па краі якога ідзе канаўка (шырыня 0,4 м, глыбіня 0,4—0,5 м), запоўненая цёмна-шэрым пяском, змешаным з попелам і дробнымі вугольчыкамі. У цэнтры круга — круглае ў плане паглыбленне (дыяметр 0,15 м) з плоскім дном. За 2 м ад краю свяцілішча размешчаны 4 серпападобныя паглыбленні, арыентаваныя па баках свету.

Згодна канструкцыі, у цэнтры круга Х. с. стаяла масіўная драўляная статуя ідала. У кальцавой канаўцы, верагодна, размяшчаўся «малы» агонь або стаяў вастракол, што акружаў ідала. У серпападобных паглыбленнях таксама гарэлі вогнішчы, толькі большыя і, магчыма, нязгасныя. Абломкі керамікі, знойдзеныя ў паглыбленнях, даюць падставу меркаваць, што сюды прыносілі пітво, якое потым вылівалі на агонь, а гаршкі разбівалі і таксама кідалі ў вогнішча. Каля паўд. равоў першага і другога кальца размяшчалі, хутчэй за ўсё, ахвярнікаў. Ёсць меркаванні, што 2 крайнія вялікія слупы (з агароджы каля ўсх. паўмесяца) уяўлялі сабой ідалаў або канструкцыі для здабывання пры дапамозе трэння «жывога агню». На думку даследчыкаў, Х. с. (з «вечным» агнём вакол статуі) ахвяравалася Перуну, свяцілішча меншых памераў, магчыма, было прысвечана мясцоваму бажаству, апекуну роду. На паўн. канцы мыса размяшчалася жытло (памерамі 4,5×4,6 м), якое было звязана з усім комплексам і належала жрацу або таму чалавеку, які быў абавязаны сачыць за свяцілішчам і пад-

трымліваць агонь. Свяцілішча датуецца па знаходках керамікі сярэдзінай 10— пач. 11 ст., яно з'явілася міжродавым капішчам аднаго з плямёнаў радзімічкага саюзу. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ХРО́НІКА БЫХАЎЦА́,** Летапіс Быхаўца, помнік беларуска-літоўскага летапісання 1-й пал. 16 ст., найбольш поўны агульнадзяржаўны летапісны звод. Выяўлена ў 1820-я г. ў бібліятэцы памешчыка А. Быхаўца з маёнтка Магілёўцы пад Ваўкавыскам. Пачатак і канец хронікі не зберагліся. Вядома ў адзіным спісе канца 17— пач. 18 ст., перапісаным лацінкай з больш даўняга, кірыліцкага тэксту. Рукапіс згублены ў 2-й пал 19 ст. Крыніцамі Х. Б. паслужылі *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, Галіцка-Валынскі летапіс, Беларуска-літоўскі летапіс 1446. Аўтар зводу перанёс пачатак падзей з 1 у 5 ст., з часоў Нерона ў эпоху вялікага перасялення народаў і дапоўніў легендарную гісторыю Літвы аповесцю пра Міндоўга і Войшалка (запазычана з Галіцка-Валынскага летапісу). Беларуска-літоўскі летапіс уключаны ў скарочаным выглядзе, без агульнарускай часткі і «Пахвалы Вітаўту». Асноўнымі крыніцамі арыгінальнай часткі хронікі, якая складае каля палавіны тэксту і ахоплівае падзеі пераважна 15— пач. 16 ст., паслужылі розныя гіст. і сямейныя паданні, успаміны відавочцаў, уласныя назіранні аўтара.

Х. Б. прысвечана гісторыі Вял. кн. Літоўскага ад легендарных часоў да пач. 16 ст. Арыгінальная частка твора складаецца з асобных дакументальных запісаў і гіст. апавяданняў пра мінулае Беларусі і Літвы, гісторыю бел.-літоўскіх княжацкіх і магнацкіх родаў (найбольш Гаштольдаў і Слуцкіх), пра значныя падзеі ўнутранага і знешнепалітычнага жыцця дзяржавы. Шмат старонак аўтар прысвяціў апісанню паходаў і бітваў, ратных подзвігаў сваіх суайчыннікаў, іх гераізму. Асабліва жывасцю вылучаюцца апавяданні пра адзін з паходаў Альгерда на Маскву, Грунвальдскую бітву 1410 і забойства вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440. Твор абрываецца на апісанні перамогі бел.-літоўскага войска над кіраўніцтвам М. Глінскага над татарамі пад Клецкам у 1506. Асобныя старонкі хронікі маюць выразную публіцыстычную накіраванасць. Прыкметна непрыязнае стаўленне аўтара да кіруючых колаў Польшчы, якія ён лічыў галоўнымі ворагамі паліт. незалежнасці радзімы. Адначасова храніст перацэньвае ролю бел.-літоўскіх феадалаў у гісторыі Вял. кн. Літоўскага, у абароне яго дзярж. інтарэсаў. Хроніка выявіла імкненні і погляды патрыятычна настроенай часткі бел.-літоўскай шляхты, заклапочанай гіст. лёсам сваёй дзяржавы. Аўтар імкнуўся зацікавіць суайчыннікаў гераічным мінулым сваёй зямлі, узмацніць іх патрыятычныя пачуцці, захаваць для наступных пакаленняў памяць пра бацькаўшчыну, яе герояў і выдатныя гіст. падзеі. У хроніцы арганічна спалучаны традыцыйныя, падавыя формы выкладу са звязаным апавяданнем, кароткія інфармацыйныя запісы з разгорнутымі гіст. апавяданнямі і аповесцямі. Найбольш падрабязна і дакладна апісаны падзеі пач. 16 ст., што адбываліся ў раёне Навагрудка і Слуцка. Асобныя дэталі зместу і гіст. рэаліі сведчаць, што асноўная частка хронікі напісана беларусам праваслаўнага веравызнання, блізкім да князёў Слуцкіх. Як летапісны звод яна завершана, верагодна, у 1530-я г. Твор змяшчае каштоўны этнагр. матэрыял. У легендарнай частцы хронікі апісваюцца язычніцкія звычаі і абрады літоўцаў (асобныя іх групы ў 12—15 ст. жылі і на тэрыторыі сучаснай Зах. Беларусі): яны ставілі драўляныя балваны, маліліся ім і прыносілі розныя ахвяры, спальвалі нябожчыкаў і клалі ў магілу кіпцюры рысі і мядзведзя, пакланяліся свяшчэнным гаям і азёрам і інш. Цікавае нар. паданне пра заснаванне Гедымінам Вільні, пра вешчы сон князя і яго адгадванне варажбітом. У хроніцы — звесткі пра заняткі насельніцтва (паляванне на зубраў і тураў), пра віды тагачаснай зброі (лукі, мячы, суліцы, коп'і, пушкі), меры даўжыні (палёт стралы і міля), згадваюцца музычныя інструменты (трубы і свірэлі), на якіх гралі ў час выхаду войска на бітву. Важныя таксама звесткі пра нар. каляндар і храналогію. Як сведчыць храніст, час падзей звычайна вызначаўся і захоўваўся ў нар. памяці прымеркавана да царкоўна-рэлігійных свят (у вербную нядзелю, перад вялікаднем, на трэці тыдзень вялікага посту і г. д.), а летазлічэнне ў 16 ст. вялося на Беларусі паводле двух стыляў: ад нараджэння Хрыста і ад «стварэння свету». У цэлым Х. Б.— каштоўная крыніца разнастайных ведаў пра гіст. мінулае бел. народа. *В. А. Чамярыцкі.*

**«ХРО́НІКА ВЯЛІ́КАГА КНЯ́СТВА ЛІТО́ЎСКАГА І ЖАМО́ЙЦКАГА»,** гісторыка-літаратурны твор 16 ст. У ім выкладзена гісторыя Вял. кн. Літоўскага ад легендарнага князя Палемона да Гедыміна. Напісана ў 1520-я г. на бел. мове, відаць, у Вільні ў асяроддзі літоўскіх феадалаў. Паслужыла непасрэднай крыніцай *Хроніцы Быхаўца*, *«Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі»* М. Стрыйкоўскага, *«Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі»* А. Гваньіні, некаторых іншых хронік і гісторый 16—19 ст. *В. А. Чамярыцкі.*

**«ХРО́НІКА ЕЎРАПЕ́ЙСКАЙ САРМА́ТЫІ»,** помнік гістарыяграфіі эпохі феадалізму. Складзена на лацінскай мове ў 1570-х г. італьянцам А. Гваньіні, які служыў ротмістрам у войску Вял. кн. Літоўскага і адзін час у перыяд Лівонскай вайны 1558—83 быў камендантам Віцебска. Заснавана на розных крыніцах, у т. л. на беларуска-літоўскіх хроніках. Аўтар выкарыстаў таксама матэрыялы, сабраныя М. Стрыйкоўскім. Гісторыя Вял. кн. Літоўскага выкладзена хранiстам скарочана, пераважна паводле *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і, часткова, *Хронікі Быхаўца*. У творы апісваюцца Польшча, Літва, Беларусь, Украіна, Расія, Прусія, Татарыя і інш. краіны, падаецца звесткі з грамадзянскай гісторыі, геаграфіі, пра паходжанне, звычаі і культуру розных народаў Еўропы. Продкі славян выводзяцца ад сарматаў, а літоўскія князі і шляхта ад рымскай знаці. Храніст расказвае пра язычніцкія звычаі і абрады літоўцаў, іх пакланенне гаям і азёрам, пра свяшчэнны агонь Зніч і бога Перуна. Вельмі каштоўны этнагр. матэрыял змешчаны ў арт. *«Спосаб апрацоўкі глебы і сяўбы на Белай Русі»*. У ім апісваецца, як сяляне выцярэблівалі і выпальвалі ўчасткі лесу, рыхтавалі ляда, пасля ўзорвалі яго і сеялі пшаніцу, жыта, авёс. Аўтар паведамляе таксама, калі на Беларусі сеялі ў 16 ст. гарох, авёс і грэчку, дзе і як захоўвалі сабраны ўраджай, прадукты харчавання і інш.

Хроніка Гваньіні ўпершыню апублікавана ў 1578 у Кракаве, у 1581 у Спіры (Германія) выйшла 2-е, дапоўненае выданне, у 1583 надрукавана ў Італіі ў перакладзе на італьянскую мову. На Беларусі і Украіне была вядома ў выданні на польскай мове (Кракаў, 1611, непасрэднай крыніцай для гэтай рэдакцыі паслужыла *«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі»* Стрыйкоўскага), якое дапоўнена кароткім апісаннем Зах. Еўропы, некаторых краін Блізкага Усходу, а таксама падзей у Польшчы, Вял. кн. Літоўскім і Расіі апошняй чвэрці 16 ст. У 1-й пал. 17 ст. перакладзена на бел. мову. Паслужыла крыніцай для бел. і украінскіх хронік і хранографаў 17—18 ст. На яе спасылаецца Т. Сурта ў прадмове да Магілёўскай хронікі. «Х. Е. С.» — першы твор, што пазнаёміў зах.-еўрапейскага чытача з гісторыяй Вял. кн. Літоўскага і зместам беларуска-літоўскіх агульнадзярж. хронік. *В. А. Чамярыцкі.*

**«ХРО́НІКА ПО́ЛЬСКАЯ, ЛІТО́ЎСКАЯ, ЖАМО́ЙЦКАЯ І ЎСЯ́Е РУСІ́»,** помнік польскай гістарычнай прозы 16 ст. Складзена М. Стрыйкоўскім (часткова на Беларусі) у 1570-я г. Упершыню апублікавана ў 1582 у Круляўцы (цяпер Калінінград). «Хроніка...» вылучаецца шырынёю ахопу падзей (ад біблейскіх часоў да 1580 уключна), багаццем выкарыстаных крыніц (творы антычных гісторыкаў Герадота, Лівія, Пталамея, Страбона, хронікі князёў Заслаўскіх, творы польскіх хранiстаў Я. Длугаша, М. Мяхоўскага, М. Кромера, М. Бельскага, нямецкага храніста П. Дусбурга, стараж.-рускія і бел.-літоўскія летапісы). Апісвае паліт. гісторыю Польшчы, Вял. кн. Літоўскага і Русі, закранае праблемы этнагенезу славян, сцвярджае адзінства іх паходжання, высока ацэньвае гіст. мінулае ўсх.-слав. народаў і лі-

тоўцаў, услаўляе іх гераічныя справы. Даволі падрабязна выкладзена гісторыя Вял. кн. Літоўскага ад легендарнага князя Палемона да Стафана Баторыя, пераважна паводле *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *Хронікі Быхаўца,* што былі вядомы аўтару ў 15 спісах і выкарыстаны ім добрасумленна, але некрытычна. Мае шмат недакладнасцей і адвольнасцей.

«Хроніка...» змяшчае звесткі па гісторыі бел. культуры, пра помнікі археалогіі, этнаграфіі, архітэктуры, жывапісу Беларусі сярэдніх вякоў. Характэрная асаблівасць помніка — наяўнасць значнай колькасці вершаваных уставак пра асобныя падзеі батальнай тэматыкі (пра бітву з татарамі пад Клецкам у 1506, з рускімі войскамі пад Оршай 1514, пад Улай 1564 і інш.), а таксама аўтарскія прысвячэнні розным бел.-літоўскім мецэнатам. Падзеі ў творы асветлены з агульнадзярж. і шляхецкіх пазіцый; мінулае бел. і літоўскага народаў паэтызуецца і гераізуецца. Сваім кампілятыўным характарам, асаблівасцямі выкладу і жанравай формы «Хроніка...» нагадвае летапісны звод, апрацаваны пад белетрыстычную гіст. аповесць. Карысталася вялікай папулярнасцю і аўтарытэтам на Беларусі, у Літве і на Украіне, была добра вядома ў Расіі, дзе неаднаразова перакладалася. На бел. мову перакладзена ў канцы 16 — пач. 17 ст., лягла ў аснову «Хронікі літоўскай і жамойцкай», 2-й і 3-й частак бел.-украінскага хранографа «Вялікая хроніка». *В. А. Чамярыцкі.*

**ХРО́СНІК,** хросны сын у адносінах да хросных бацькоў. У некаторых мясцовасцях называецца хрэснік.

**ХРО́СНІЦА,** хросная дачка ў адносінах да хросных бацькоў. У некаторых мясцовасцях называецца хрэсніца.

**ХРО́СНЫЯ БАЦЬКІ́;** дзейныя асобы ў радзіннай абраднасці; тое, што і *кумы.*

**ХРО́СНЫЯ БРАТ І СЯСТРА́,** тыя, хто маюць адных і тых жа хросных бацькоў.

**ХРУСТЫ́,** х р у ш ч ы, мучны выраб. Пшанічную муку замешваюць на малацэ, дадаюць яйцы, масла, цукар. Цеста тонка раскочваюць, рэжуць на вузкія палоскі і, надаўшы ім адмысловую форму, пякуць у растопленым тлушчы або алеі. Гатовыя Х. пасыпаюць цукрам.

**ХРЫСЦІЯ́НСТВА** (ад грэч. Christós літаральна памазаннік), адна з сусветных рэлігій (побач з будызмам і ісламам). Узнікла ў 1 ст. н. э. сярод нізоў насельніцтва ў Рымскай імперыі. Для першых хрысціян характэрны чаканні хуткага прыходу месіі, хуткага канца несправядлівага свету і ўстанаўлення «царства божага» на зямлі. Х. адмаўляла афіцыйную сістэму духоўных каштоўнасцей з яе верай у сацыяльную гармонію, з яе дабрачыннасцямі грамадзяніна і падданага Рыма, але не заклікала да барацьбы з прыгняталь-нікамі. Зарадзілася Х. сярод іудзейскага сектанцтва, але, звяртаючыся да ўсіх людзей без уліку іх нацыянальнай і сацыяльнай прыналежнасці, хутка набыло касмапалітычны, універсальны характар. Ва ўмовах агульнага крызісу Рымскай імперыі, з павелічэннем прытоку людзей з сярэдніх і вышэйшых слаёў грамадства Х. стала пануючай рэлігіяй імперыі. Да канца 2 ст. склалася *царква,* заснаваная на падзеле веруючых на духавенства і міран. Паступова склалася іерархія духавенства, якое прысвоіла сабе галоўную ролю ў распрацоўцы веравучэння, сацыяльнай дактрыны Х., у адпраўленні культавых дзеянняў. Канчаткова хрысціянскі сімвал веры выпрацаваны на Нікейскім (321) і Канстанцінопальскім (381) саборах. Новазапаветны канон з 27 кніг зацверджаны ў пач. 5 ст.

Х.— манатэістычная рэлігія, у якой бог выступае вышэйшым абсалютам, што стварыў усё з нічога; агульнае ўяўленне пра светабудову яно грунтуе на адносінах тварэц — стварэнне (сярод стварэнняў галоўнае месца адводзіцца чалавеку, створанаму па «вобразу і падабенству» бога). У цэнтры хрысціянскай дагматыкі — уяўленні пра трыадзінства бога і пра богаўвасабленне, што адрознівае Х. ад будызму і ісламу. Хрысціянская тройца — гэта адзінства, роўнасць і «прадвечнасць» бога-бацькі, бога-сына і бога-духа святога. Ісус Хрыстос увасабляе ў сабе адзінства божай і чалавечай натуры, акт яго нараджэння ад зямной жанчыны Марыі і святога духа падаецца як паяўленне ў зямным чалавечым быцці трансцэндэнтальнага бога. Ісус Хрыстос як месія выступае ў якасці выратавальніка ўсяго чалавецтва, якое ў выніку грэхападзення першых людзей асуджана на індывідуальную смерць і зямныя пакуты. Смерць Ісуса Хрыста падаецца як збавіцельная ахвяра за ўсіх людзей перад богам, яго смерць і ўваскрэсенне — зарука ўваскрэсення памерлых людзей і атрымання імі вечнага жыцця.

Сацыяльная дактрына ранняга Х. даволі хутка падверглася зменам. «Царства божае» было перанесена з зямлі на неба, ажыццяўленне спадзяванняў на «канец свету» адсунута ў неакрэсленую будучыню, нянавісць да Рымскай дзяржавы і прага помсты ёй, адлюстраваныя ў новазапаветным апакаліпсісе, саступілі месца ідэям суіснавання з несправядлівым светам, а затым і апраўданню адносін сацыяльнай няроўнасці ў ім (напр., заклікі да рабоў падпарадкоўвацца іх уладальнікам у пасланнях Паўла або сцвярджэнне аднаго з «айцоў царквы» Кіпрыяна ў сярэдзіне 3 ст.: «Раб не можа быць вышэй за пана свайго»).

Паступова складваўся хрысціянскі культ. Многае запазычана з інш. рэлігій. Ранняе Х. ўключала ў свой культ найбольш пашыраныя ў рэлігіях міжземнаморскага рэгіёна культавыя формы і сімволіку, пераапрацоўвала іх адпаведна са сваім веравучэннем. Напр., сімвалічны змест хрысціянскага вялікадня (смерць і ўваскрэсенне бога) — запазычаныя і прыстасаваныя да вобраза Ісуса Хрыста ўяўленні з містэрый рэлігій Асірыса, Дыяніса, Адоніса, Аціса і інш. Уяўленні пра сімвалічную смерць і новае нараджэнне, пра змыццё вадой грахоў, пра тэафагію, якія ляжаць у аснове хрысціянскіх абрадаў хрышчэння і прычашчэння, запазычаны з мітраізму і інш. містэрыяльных усх. культаў, з рытуальнай практыкі іудзейскіх сект. Сярод абрадаў галоўнае месца заняла сістэма таінстваў (першымі ў ранг таінстваў у канцы 2 ст. ўзведзены хрышчэнне і прычашчэнне), якая прывязвала чалавека да царквы, ахоплівала ўсе асноўныя моманты яго жыцця, дазваляла духавенству кантраляваць не толькі ўчынкі, але і думкі веруючага. Вакол таінства прычашчэння з цягам часу склалася літургія (імша) — галоўнае хрысціянскае богаслужэнне, складанае культава-драматычнае дзеянне, у якім сімвалічна падаюцца найбольш важныя дагматы, звязаныя з новазапаветнай біяграфіяй Ісуса Хрыста. Галоўным святам у хрысціянстве стаў вялікдзень, у аснове сімволікі якога ляжаць новазапаветныя апавяданні пра апошнія дні зямнога жыцця Ісуса Хрыста, яго пакуты, пакаранне смерцю, уваскрэсенне. У пач. 4 ст. Х. стала адной з афіцыйных рэлігій Рымскай дзяржавы. Эдыктам імператара Феадосія (380) яно абвешчана адзінай дзярж. рэлігіяй Рымскай імперыі.

Х. ўзнікла і сфарміравалася ў рабаўладальніцкім грамадстве ў час яго сконy. У большай ступені яно адпавядала новаму феадальнаму ладу. У сярэднія вякі амаль ва ўсіх краінах Еўропы хрысціянская рэлігія — пануючая ідэалогія, час духоўнага засілля царквы, якая стала найбуйнейшым феадалам Еўропы. Раскол хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную фактычна звязаны з распадам Рымскай імперыі на дзве часткі (канец 4 ст.). Адасюль і розны лёс Х. ў гэтых рэгіёнах. Усходняя частка імперыі выстаяла перад націскам варвараў. Заходняя Рымская імперыя развалілася, і на яе тэрыторыі ўзніклі варварскія дзяржавы. Аднак рымскаму епіскапу (папе рымскаму) удалося на працягу некалькіх стагоддзяў падпарадкаваць сабе зах. цэрквы і стаць адзіным галавой каталіцкай царквы. У Візантыі праваслаўная царква традыцыйна падпарадкоўвалася імператарскай уладзе. Канчатковае раздзяленне царквы на каталіцкую і праваслаўную адбылося ў 1054—1204. І праваслаўная, і каталіцкая цэрквы служылі ідэалагічнай апорай феадальнага ладу, вялі жорсткую барацьбу з антыфеадальным рухам. Паміж праваслаўем і каталіцызмам існуюць пэўныя разыходжанні ў дагматыцы, кульце (напр., каталікі лічаць, што дух святы выходзіць і ад бога-бацькі, і ад бога-сына, а праваслаўныя сцвярджаюць, што толькі ад бога-

бацькі; у каталіцызме існуе ўяўленне пра чысцец, якога няма ў праваслаўі; у праваслаўі адсутнічае строгі цэлібат для ўсяго духавенства, як у каталіцкай царкве; выкарыстоўваецца розны хлеб для прычашчэння і г. д.).

На Беларусі Х. з'явілася ў 10 ст., калі адбылося хрышчэнне насельніцтва Кіеўскай Русі (988 ці 989). Усталяванне Х. адбывалася ў жорсткай барацьбе з язычніцтвам, пра што сведчаць фальклор, летапісы. Элементы ўсх.-слав. язычніцтва трапілі і ў праваслаўны культ. Напр., культы святых-апекуноў асобных галін сельскай гаспадаркі, прыстасаванне земляробчага календара ўсх. славян да праваслаўнага календара, у выніку чаго асобныя царкоўныя даты выкарыстоўваліся як вехі аграрнага цыкла. Моцны ўплыў дахрысціянскіх абрадаў і ўяўленняў адчуваўся і ў сямейным абрадавым цыкле (напр., хрысціны, якія спалучаліся з хрышчэннем, памінкі памерлых і г. д.). Увядзенне хрысціянства на Русі садзейнічала станаўленню старажытнарускай дзяржавы, росту яе міжнароднай ролі, культурнаму развіццю Русі. Запазычанне праваслаўя з Візантыі садзейнічала ўспрыняццю дасягненняў антычнай культуры на Русі. З'явіліся храмавае дойлідства (Сафійскі сабор 11 ст., Спаса-Ефрасіннеўская царква 12 ст. ў Полацку, Каложская царква 12 ст. ў Гродне), фрэскавы жывапіс, кніжныя пераклады, летапісы, словы (напр., Кірылы Тураўскага), жыціі і інш. жанры літаратуры і мастацтва. Праваслаўная царква на Русі была не толькі ідэалагічнай апорай феадальнага ладу, але даволі хутка сама стала адным з буйнейшых феадалаў.

Пашырэнне каталіцызму на Беларусі пачалося ў той час, калі яна ўваходзіла ў склад Вял. кн. Літоўскага. Уплыў каталіцызму пашырыўся пасля Крэўскай уніі (1385) і асабліва пасля Люблінскай уніі (1569). У 16 ст. ў сувязі з рэфармацыйным рухам на Беларусі паявіліся пратэстанцкія кірункі (кальвінізм, лютэранства, арыянства). У час контррэфармацыі каталіцкай царкве ўдалося нанесці сур'ёзныя ўдары па пратэстанцкаму руху. У 1596 заключана Брэсцкая царкоўная унія і створана уніяцкая царква (своеасаблівы гібрыд каталіцызму і праваслаўя), якая падпарадкоўвалася папе рымскаму. Царкоўная унія ліквідавана Полацкім саборам у 1839. Праваслаўе ў Расійскай імперыі заканадаўча абвешчана «першынствуючай і пануючай» рэлігіяй. Царква была часткай дзярж. апарату, на чале яе стаяў дзярж. орган — сінод.

Адным з першых дэкрэтаў Савецкай улады быў дэкрэт пра аддзяленне царквы ад дзяржавы і школы ад царквы. Рэлігія аб'яўлена прыватнай справай у адносінах да дзяржавы. У наш час у БССР сярод веруючых пераважаюць прыхільнікі праваслаўя, другім па колькасці веруючых з'яўляецца каталіцызм, дзейнічаюць і пратэстанцкія кірункі (евангельскія хрысціяне-баптысты, хрысціяне веры евангельскай, адвентысты сёмага дня і інш.). Ва ўмовах крызісу рэлігіі ўсе рэлігійныя плыні шукаюць выйсце на шляху мадэрнізацыі веравучэння. Калі ў праваслаўі і каталіцызме дзейнічаюць і моцныя кансерватыўныя тэндэнцыі, то пратэстанцкія плыні больш гібка прыстасоўваюцца да сучасных умоў.



**Хустка**-абхінанка. Вёска Папямонцы Лідскага раёна. Сярэдзіна 20 ст.



Жанчына ў **хустцы** (паверх чапца). Вёска Опаль Іванаўскага раёна. Сярэдзіна 20 ст.





**Хустка** (вышыўка крыжыкам). Вёска Кашэвічы Петрыкаўскага раёна. 1930-я г.

**Хустка** (узорыстае натыканне). Вёска Неглюбка Веткаўскага раёна. 1930-я г.

**ХРЭ́СНІК,** хросны сын у адносінах да *хросных бацькоў;* тое, што і *хроснік.*

**ХРЭ́СНІЦА,** хросная дачка ў адносінах да *хросных бацькоў;* тое, што і *хросніца.*

**ХРЭ́СЬБІНЫ,** святкаванне з нагоды нараджэння дзіцяці. Гл. ў арт. *Радзіны.*

**«ХТО СПРЫТНЕ́ЙШЫ?»,** дзіцячая гульня. Для яе патрэбны двухметровы тоўсты кій і лёгкі кароткі кіёк (пугаўё). За паўметра ад канца тоўсты кій падвешваюць на вяроўцы або дроце на вышыні 12 см ад падлогі ці зямлі, другі канец яго апіраецца на зямлю. На вісячы канец чапляюць шапку або іншы прадмет ці ласунак. Верхавод гульні бярэ ў руку кіёк і садзіцца на падвешаны кій. Ногі ён выцягвае ўперад і закладвае адна на адну так, каб пяткі знаходзіліся па баках кія. Кіёк верхавод рукой выцягвае ўперад, каб канец яго быў на ўзроўні з пярэднім канцом падвешанага кія. Свабоднай рукой трымацца за кій забара-

няецца. Абавязак гульца — кійком зняць падвешаны на канцы кія прадмет. Зрабіць гэта з першага разу рэдка каму ўдаецца, затое смеху ўдосталь.

*В. Дз. Ліцвінка.*

**ХУ́СТКА,** жаночы галаўны ўбор, квадратны кавалак тканіны або ажурнага палатна, прызначаны для пакрыцця галавы і плячэй. Насілі асобна або разам з тканкай, *чапцом*, каптуром. Складзеную трохвугольнікам, завязвалі спераду (пад падбародкам) ці ззаду, а таксама насілі ў выглядзе бусляніка (Х. абвівала галаву і завязвалася спераду або падтыкалася па баках). Х. шырока выкарыстоўвалі ў вясельнай, пахавальнай, радзіннай абраднасці. На Палессі, Панямонні, у Цэнтр. Беларусі ў канцы 19 — пач. 20 ст. Х. замяніла намітку. У турава-мазырскім і давыд-гарадоцка-тураўскім строях звычайна насілі 2—3 Х. адначасова, прычым адна з іх драпіравалася пад падбародкам. Рабілі Х. з ільняной, ваўнянай, баваўнянай дамотканкі або вязалі на прутках (памеры звычайна 180, 100, 70 см). Суцэльнатканыя і сшыўныя (з 2—3 частак) Х. аздаблялі ўзорыстым натыканнем, вышыўкай, набойкай, карункамі, махрамі. Выбар матэрыялу, характар і прыёмы аздаблення залежалі ад сезоннага прызначэння Х., спосабу завязвання, агульнага ансамбля і традыцый касцюма пэўнага рэгіёна. Зімовыя Х. (апіпанка, ахілянка, крупчэвенька, канаплянка) вызначаліся вялікімі памерамі, іх ткалі або вязалі з белай, карычневай, чорнай воўны. Тканіну ці ажурнае палатно часта прывальвалі і аздаблялі па ўсіх чатырох баках ці адным рагу махрамі, кутасамі, карункамі, на краях натыкалі каляровыя шлякі. Насілі паверх звычайных Х. або накідвалі на плечы. Па ўсёй Беларусі пашыраны белыя, натуральнага колеру лёну ці воўны летнія Х. Высокага майстэрства ў стварэнні Х. для летняга святочнага ўбору дасягнулі нар. майстры Падняпроўя і Усх. Палесся (стылявыя адметнасці іх суадносяцца з межамі нар. строяў). Х. турава-мазырскага строю шылі з белага паркалю, аздаблялі вышыўкай гладдзю ці крыжыкам. Сакавіты разнаколерны арнамент з лісця, сцяблінак дрэў, кветак вызначаўся адметнай графікай малюнка, які кампанаваўся пышным букетам па цэнтры Х. і адным рагу або толькі ў адным рагу. Х. магілёўскага строю аздаблялі чырвоным або чырвона-чорным геаметрычным арнаментам вышыўкі ўсіх чатырох рагоў. Х. пінска-івацэвіцкага строю вылучаліся тонкасцю палатна, вытканым узорам букетаў, вянкоў, вазонаў на адным з рагоў. Для строяў Падзвіння характэрна аздабленне блакітным набіваным арнаментам, на Панямонні вязалі ажурныя чорныя, карычневыя, шэрыя, белыя Х. У канцы 19—20 ст. вялікае пашырэнне атрымалі шаўковыя, кашміравыя, паркалёвыя Х. фабрычнай вытворчасці (маліноўкі, кашміроўкі, канаплянкі, дубальтоўкі і інш.).

*М. Ф. Раманюк.*

**«ХУ́СТКА»,** гульнёвы карагод, полька. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі, вельмі хуткі. Удзельнікі карагода, узяўшыся за рукі, рухаюцца па крузе хуткім крокам, які часам пераходзіць у дробны бег. У крузе знаходзіцца вядучы з хусткай у руках; ён падыходзіць да каго-небудзь з карагода і рассцілае перад ім на падлозе хустку. Агульны рух спыняецца. Вядучы і выбраны з круга становяцца адзін перад адным на калені на хустку і цалуюцца. Пасля гэтага вядучы ідзе ў круг на месца выбранага. Выбраны падымае з падлогі хустку, ідзе ў цэнтр круга, і карагод працягваецца. У полькі адна з удзельніц танцуе з хусткай у руках. Калі яна падкідвае хустку ўверх, хлопцы з круга пакідаюць сваіх партнёрак і стараюцца злавіць яе. Той, каму гэта ўдаецца, становіцца ў пару з дзяўчынай, якая падкідвала хустку, а дзяўчына, што засталася без кавалера, забірае ў яго хустку, і танец працягваецца. Карагод і полька — своеасаблівы сродак выяўлення сімпатый сярод удзельнікаў гульні. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у розных варыянтах на многіх раёнах Беларусі. У выглядзе карагода найбольш характэрны для Зах. Беларусі.

*А. Л. Варламаў.*



**Хутар** каля вёскі Супорніца Міёрскага раёна.

**ХУ́ТАР,** адасобленая сялянская гаспадарка, у якой *хата* і ўсе гаспадарчыя пабудовы знаходзіліся побач з ворнай зямлёй. Хутарская сістэма была найбольш пашырана на Украіне, дзе яна паявілася ў 18 ст. На Беларусі Х. як форма землекарыстання ўзнік пасля адмены прыгоннага права, а як тып сельскіх пасяленняў вядомы з канца 19 ст. ў Віцебскай і Магілёўскай губ., калі тут кожны гаспадар меў права выдзеліцца з *абшчыны* і пакінуць *вёску*. У снежні 1902 Віцебскі губ. камітэт выказаўся за ліквідацыю абшчыны. Масавае рассяленне на Х. звязана са сталыпінскай аграрнай рэформай, якая ў ліку іншых мер прадугледжвала стварэнне адасобленых хутарскіх гаспадарак. На працягу 1906—15 з абшчыны выйшла больш за 2 млн. гаспадароў, якія за бясцэнак скупілі зямлю збяднелых сялян. У выніку сталыпінскай рэформы на Х. выселілася 26,2 % сялянскіх двароў у Віцебскай і 14,5 % у Магілёўскай губ. Менш закранула рэформа Гродзенскую і Мінскую губ. Тут на Х. выйшла каля 6 % сялянскіх двароў. Х. ўзнікалі і ў БССР.

Вераснёўскі Пленум ЦК КП(б)Б (1924) рэкамендаваў дазволіць сялянам свабодна выбіраць форму землекарыстання і патрабаваў не перашкаджаць выдзяленню на хутары. Згодна пастановы Пленума Наркамзем БССР распрацаваў «Перспектыўны план развіцця сельскай і лясной гаспадаркі БССР на 1925/26—1929/30 гг.», якім прадугледжвалася далейшае стварэнне хутароў і дробных пасёлкаў у сярэднім па 13 двароў. Для рэалізацыі гэтага плана было асігнавана і выдаткавана 4,8 мільёна рублёў і адпушчана каля 6 мільёнаў рублёў крэдыту. Да 1929 на Х. і ў дробныя пасёлкі перасслена 129 692 сялянскія гаспадаркі, у т. л.— 107 267 на Х. У Зах. Беларусі, якая да верасня 1939 уваходзіла ў склад буржуазнай Польшчы, частка аднадворных пасяленняў тыпу Х. ўзнікла ў выніку правядзення *парцэляцыі* і *камасацыі* зямлі. У Навагрудскім пав., напр., з 1920 па 1933 расселены на хутары 442 вёскі.

У канцы 1918— пач. 1919 на Беларусі паявіліся першыя с.-г. камуны, саўгасы і калгасы. Але яны былі заўчаснымі і не сталі вытворцамі с.-г. прадукцыі, не маглі пракарміць самі сябе. Насуперак ленінскаму плану кааперацыі сельскай гаспадаркі пазней у краіне пачалася масавая прымусовая калектывізацыя. На Беларусі яна пачалася ў канцы 1929. У лютым 1930 Бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне калектывізаваць да пачатку веснавой сяўбы 75—80 % сялянскіх гаспадарак. Больш таго, у ЦК ВКП(б) была накіравана просьба аб'явіць Беларусь рэспублікай суцэльнай калектывізацыі. Пачаўся адваротны працэс — ссяленне з Х. і дробных пасёлкаў у калгасныя вёскі і саўгасныя пасёлкі. Да Вялікай Айчыннай вайны ссялена ў вёскі каля 190 тыс. хутарскіх гаспадарак. Пасля вайны ў выніку суцэльнай калектывізацыі ў раёнах былой Зах. Беларусі хутаран перасялялі ў вёскі. Як форма сельскага пасялення Х. цяпер рэдкая і не тыповая для Беларусі з'ява.

*У. С. Гуркоў.*



**ЦАДЗІ́ЛКА,** 1) ганчарны выраб; шырокая гліняная пасудзіна з маленькімі адтулінамі ў дне і прыдоннай частцы тулава, часам з 1—2 вушкамі па баках (называлі таксама друшляк). Ужывалі для працэджвання і працірання ежы. Выраблялі паліванай і чорназадымленай. 2) Кавалак палатна для працэджвання малака.

**«ЦАПЫ»,** традыцыйны танец. Выконваецца і мужчынамі і жанчынамі, часта без музычнага суправаджэння. У гэтым выпадку рытмічную аснову танца складаюць удары ног танцуючых аб падлогу. У танцы імітуюцца рухі працоўнага працэсу абмалочвання збожжа. Часта замест традыцыйных прылад працы — цапоў — у танцы выкарыстоўваюцца звычайныя палкі. Удары імі аб падлогу ў час танца таксама складаюць яго рытміку. Іншы раз імітацыю вытворчых працэсаў танцоры выконвалі пры дапамозе своеасаблівых рухаў рук. У час танца выканаўцы па 3—4 чал. становяцца ў круг тварам і бакавым прыстаўным крокам ідуць па крузе. Пры гэтым акцэнтуецца кожны крок. У такт сваім рухам выканаўцы прыгаворваюць: «Мы малоцім цапамі, цапамі,//Гоп, цапамі, гоп, цапамі». Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Чэрвеньскім, Пастаўскім і Ушацкім р-нах. *А. Л. Варламаў.*

**«ЦАР ЗА ГО́РАДАМ ГУЛЯ́Е»,** карагод-гульня. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Карагод грунтуецца на двухрадковуі: радок запеву і радок прыпеву. Дзяўчаты-карагодніцы станавіліся тварам у круг і браліся за рукі. Перад пачаткам карагода выбіраўся «цар», які заставаўся па-за кругам. Ходзячы па крузе, дзяўчаты спявалі: «Цар за горадам гуляе.//Цар нявесту выбірае.//Адчыніцеся, вароты.//Увайдзі, душа царова» і г. д. (пасля кожнага запеву паўтараўся прыпеў «Цар, цар, цар»). «Цар» рухаўся ў процілеглы бок карагода і разыгрываў дзеянні адпаведна песні — шукаў сабе «нявесту». Выбраўшы дзяўчыну, ён праходзіў у сярэдзіну круга і кланяўся ёй. Затым дзякаваў усім удзельнікам, падыходзіў да абраніцы і злёгку наступаў ёй на насок абутку. Атрымаўшы згоду, «цар» адбімаў «нявесту» і выводзіў яе за круг. Потым выбіраўся другі «цар» і ўдзельнікі працягвалі карагод далей. Пашыраны на Палессі. Запісаны ў 1985 у Ельскім р-не Гомельскай вобласці. *М. А. Козенка.*

**ЦАРКВА́** [ад грэч. kyriakē (oikia) божы дом], 1) тып арганізацыі духавенства і веруючых пэўнай рэлігіі, асобнага кірунку ці плыні ў ёй на аснове агульнасці веравучэння і культу. Для Ц. характэрны наяўнасць дагматычнай і культавай сістэмы, цэнтралізаванае кіраванне на чале з іерархіяй духавенства, падзел прыналежных да Ц. на прафесійных дзеячаў культу і радавых веруючых (у *хрысціянстве* — клір і міране). Узнікла з наяўленнем монатэістычных рэлігій. Канчаткова аформілася ў эпоху феадалізму, калі царкоўны прыход быў не толькі рэлігійнай, але і сацыяльнай ячэйкай, накшталт суседскай абшчыны. Прыналежнасць да пэўнай Ц. засноўвалася на сямейных, нацыянальных і рэлігійных традыцыях. Ад пануючай Ц. адколваліся інш. самастойныя рэлігійныя абшчыны — секты. Пры феадалізме і капіталізме Ц. цесна звязана з пануючымі класамі, атрымоўвае ад іх матэрыяльную і інш. падтрымку. Адыгрывае вялікую ролю ў захаванні рэлігійных вераванняў. Зыходзячы з ідэалістычнага светапогляду, імкнецца задаволіць духоўныя, пазнавальныя, этычныя і эстэтычныя патрэбнасці веруючых. У СССР і ў большасці сацыялістычных краін Ц. аддзелена ад дзяржавы. За ёй засталіся толькі функцыі адпраўлення рэлігійнага культу. Усе праваслаўныя Ц., акрамя албанскай, у наш час уключыліся ў экуменічны рух, з'яўляюцца членамі Сусветнага савета цэркваў.

Буйнейшыя хрысціянскія Ц.: праваслаўная — складаецца з аўтакефальных Ц., з якіх — Руская і Грузінская на тэр. СССР, Армяна-грыгарыянская (Армянская апостальская царква), Рымская каталіцкая з рэзідэнцыяй яе галавы — папы ў Ватыкане, пратэстанцкія (англіканская, лютэранская, кальвініцкія). У пратэстантызме многія секты пераўтварыліся ў Ц. (метадысты, баптысты, мяноніты). Каталіцкія абшчыны ў СССР сканцэнтраваны і дзейнічаюць у асноўным у зах. абласцях Украіны, Беларусі, у Прыбалтыцы. У БССР асноўнае рэлігійнае аб'яднанне — Руская праваслаўная царква. Ёю кіруе Мінскае епархіяльнае ўпраўленне на чале з мітрапалітам Мінскім і Беларускім, якога прызначае Свяшчэнны сінод пад старшынствам патрыярха Маскоўскага і ўсёй Русі. Епархія падзяляецца на благачынныя акругі на чале з благачыннымі, якія кіруюць царкоўным жыццём праз настаяцеляў храмаў — свяшчэннікаў. Прыходы Рымскай каталіцкай царквы ўзначальваюць ксяндзы. Каталіцкае духавенства на Беларусі адыграла негатыўную ролю, фарміравала ў свядомасці беларусаў канцэпцыю тоеснасці нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці: каталік — значыць, паляк. Такое разуменне сваёй нацыянальнай прыналежнасці не перадолена сярод часткі беларусаў і ў наш час у зах. рэгіёнах. На тэр. Беларусі і Украіны існавала разнавіднасць каталіцызму — грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква. У 1839, 1946 яна ўз'ядналася з праваслаўем. З пратэстанцкіх сект больш значнае аб'яднанне евангельскіх хрысціян-баптыстаў, якое утварылася ў выніку зліцця ў 1944—45 трох рэлігійных груп: баптыстаў, евангельскіх хрысціян, пяцідзесятнікаў. Аднак многія абшчыны пяцідзесятнікаў дзейнічаюць самастойна. У БССР існуюць таксама аб'яднанні адвентыстаў сёмага дня, мусульман, іудзеяў.

Пры Урадзе СССР створаны Савет па справах рэлігій, які ажыццяўляе палітыку Сав. улады ў адносінах да рэлігіі і Ц., кантралюе выкананне законаў аб рэлігійных культах. Пры СМ БССР дзейнічае ўпаўнаважаны Савета па справах рэлігій, такія ўпаўнаважаныя ёсць і ў абласцях.

2) У вузкім сэнсе Ц. — храм, пабудова, у якой адбываецца хрысціянскае набажэнства. Асноўным элементам Ц. з'яўляецца алтар, часцей арыентаваны на ўсход. Галоўная хрысціянская царква горада ці манастыра называецца саборам. На тэр. Беларусі ў 11—12 ст. у Полацку, Віцебску, Мінску, Гродне, Тураве, Ваўкавыску, Навагрудку ўзведзены манументальныя праваслаўныя саборы і Ц. На працягу 16—18 ст. будаваліся праваслаўныя, каталіцкія, пратэстанцкія храмы, узнікалі касцёлы і кляштары розных каталіцкіх ордэнаў: бернардынцаў, дамініканцаў, езуітаў, францысканцаў і інш. Лютэранскія Ц. называюцца кіркамі (кірхамі), каталіцкія — касцёламі. Ролю царкоўнага збудавання ў іудаістаў выконвае сінагога, у мусульман — мячэць. *Г. В. Штыхаў.*

**ЦА́ЦКА,** прадмет, прызначаны для дзіцячых гульняў. Узнаўляючы рэальныя і ўяўныя рэчы і вобразы, дапамагае дзіцяці пазнаваць навакольны свет, служыць адным са сродкаў разумовага, эстэтычнага і фізічнага выхавання. Змест і знешні выгляд Ц. вызначаюцца канкрэтнымі выхаваўчымі задачамі ў адпаведнасці з узростам, развіццём і інтарэсамі дзіцяці (адрозніваюць дыдактычныя, тэхнічныя, тэатральныя, музычныя, спартыўныя, Ц.-забаўкі). Ц. заўсёды нясе на сабе адбітак сацыяльнага ладу грамадства, узроўню яго культуры, нацыянальных мастацкіх традыцый і эстэтычных запатрабаванняў. Ц. выкарыстоўваюцца таксама як сувеніры, мастацкія вырабы для аздаблення інтэр'ераў.

У Беларусі найбольш старажытная і пашыраная — гліняная Ц., раннія ўзоры якой адносяцца да неаліту. Асабліва багатыя і разнастайныя знаходкі зроблены на раскопках курганоў і гарадзішчаў часоў жалезнага веку. Сярод іх бразготкі — пустацелыя гліняныя шарыкі, яйкі з каменьчыкам ці гліняным шарыкам унутры, фігурныя Ц.-свістулькі. На думку даследчыкаў, у першабытныя часы такія Ц. мелі таксама рытуальнае прызначэнне: свіст і бразгаценне павінны былі адганяць «злых

духаў». Фігуркі людзей, якія абазначалі продкаў, хатніх жывёл, ляпілі з надзеяй паўплываць на дабрабыт сям'і. Масавы рамесніцкі выраб гліняных Ц. пачаўся з 11—13 ст. разам з развіццём ган-



чарства. Свістулькі ў выглядзе птушак і конікаў, фігуркі людзей, бразготкі знойдзены на тэрыторыі стараж. Гродна, Ваўкавыска, Магілёва, Мсціслава і інш. гарадоў. Яны вызначаюцца абагульненасцю формаў і вобразаў, створаных прасцейшымі прыёмамі лепкі. Сярод знаходак 16—17 ст. сустракаюцца вырабы, упрыгожаныя зялёнай, карычневай, празрыстай палівай. Свайго росквіту мастацтва гліняных Ц. дасягнула ў 19—1-й пал. 20 ст., калі яе выраблялі практычна ва ўсіх ганчарных цэнтрах Беларусі. Для большасці Ц. характэрна выпрацаваная яшчэ ў старажытнасці стылістыка — абагульненасць, стылізаванасць і ўмоўнасць форм. Звычайна іх пакрывалі зялёнай, карычневай або жоўтай палівай, а ў традыцыйных цэнтрах чорна-задымленай керамікі Ц. таксама мела чорны колер. Асаблівай архаічнасцю вызначаецца гліняная Ц. Падняпроўя — з Дуброўна, Дрыбіна (Горацкі р-н), Магілёва, што адлюстроўваюць загадкавых паўптушак-паўконей (аналагічных знаходкам з курганоў Верхняга Падняпроўя). Класічная дасканаласць і гранічная абагульненасць форм уласціва вырабам з вёсак Харосіца, Весялова, Сланёва Навагрудскага р-на, дзе ў 1-й пал. 20 ст. існаваў самастойны промысел па іх вытворчасці. З канца 19 ст. пашыраюцца таксама Ц. наіўна-рэалістычнага характару — дакладна і падрабязна мадэляваныя фігуркі жывёл, людзей у тагачасным адзенні, часта ў нескладаным дзеянні. Найбольш яркія ўзоры — вырабы майстроў 1920—30-х г. з Ракава (гл. *Ракаўская кераміка*).

Значнае пашырэнне ў нар. побыце мела драўляная Ц. звычайна з імітацыяй руху ці дзеяння: «Кавалі», «Пілавальшчыкі», «Конікі», «Кураняты дзяўбуць зерне», «Зайцы б'юць у барабан» і інш. У канцы 19— пач. 20 ст. выраб драўлянай Ц. часта меў характар промыслу, яе масава прадавалі на кірмашах, вывозілі за межы



Гліняныя **цацкі** (свісцёлкі) з вёскі Дрыбін Горацкага раёна.

Гліняныя **цацкі** (лялькі) з вёскі Ракаў Валожынскага раёна.



Гліняныя **цацкі** (свісцёлкі) з гарадскога пасёлка Ружаны Пружанскага раёна.

Беларусі. Вобразы жывёл і людзей трактаваліся звычайна схематычна, умоўна. Часам вырабы мелі нескладаную расфарбоўку, а фігуркі людзей (лялькі) аздаблялі кавалачкамі тканіны.

Пэўнае пашырэнне атрымалі Ц. з саломы, якія рабілі з 1—2 па-рознаму складзеных перавязаных саламяных пучкоў. Прынцып іх стварэння выкарыстаны і развіты сучаснымі майстрамі саломапляцення. Шырока бытавалі разнастайныя самаробныя Ц. з падручных матэрыялаў: кары, лучынак, шышак, жалудоў, адрэзкаў тканін і інш. Асновай лялькі звычайна служыла драўляная цурка, да якой мацавалі валасы з кудзелі, вуглём малявалі твар, а з кавалачкаў тканіны шылі адзенне. Для дзяцей выраблялі таксама цацачную мэблю, посуд, прылады працы. У наш час Ц. для дзяцей і сувенірныя Ц. выпускаюць на прамысловых прадпрыемствах і фабрыках мастацкіх вырабаў.

*Я. М. Сахута.*

**ЦЕРАШКО́ВІЧ** Павел Усеваладавіч (н. 25.7.1958, г. Севастопаль), беларускі савецкі этнограф. Канд. гіст. навук (1988). Скончыў БДУ (1980). Працаваў у Бел. дзярж. музеі нар. архітэктуры і побыту, Дзярж. музеі БССР, Мін-ве культуры БССР, з 1988 навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе пытанні тэорыі нацыянальных працэсаў, этнічную гісторыю Беларусі 19— пач. 20 ст., сучасныя нацыянальныя працэсы. Аўтар раздзела «Фарміраванне і развіццё беларускай нацыі» (з В. К. Бандарчыкам) у кнізе «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985), адзін з аўтараў раздзелаў у кнізе «Палессе. Матэрыяльная культура» (Кіеў, 1988).

*Л. А. Суднік.*

**ЦЕ́РНІЦА**, мялка, прылада для пярвічнай апрацоўкі (мяцця) ільняной ці канапляной трасты. На Беларусі вядомы 2 асноўныя тыпы Ц.: нахільная і гарызантальная (1- і 2-рэбравыя). На Пн Беларусі была пашырана нахільная 2-рэбравая, а на У — нахільная 1-рэбравая. Выраблялі іх звычайна з аднаго ствала дрэва даўж. больш за 1,5 м, выкапанага з каранямі, якія з аднаго канца служылі ножкамі (другі канец ляжаў на зямлі). У ствале па даўжыні выдзёўбвалі жолаб, у які ўстаўлялася 1- ці 2-рэбравае біла. Гарызантальная Ц. складалася з двух або трох гарызантальна ўмацаваных на стойках дошчачак (шчокі), у адтуліну паміж якімі зверху заходзіла біла (язычок). Двухрэбравыя гарызантальныя Ц. бытавалі пераважна на ПнЗ, дзе характэрна двухстадыяльнае мяцце льну — спачатку на Ц. вялікіх памераў (мядзведзь, ламаха), а потым на меншай (козачка). На ПдУ вядомы гарызантальныя Ц.-двухручка (2 Ц., злучаныя разам) і Ц.-карагод (4 Ц., злучаныя разам). У канцы 19— пач. 20 ст. ў раёнах развітога льнаводства ў заможных гаспадарках пачалі выкарыстоўваць ільнамяльныя машыны. У наш час Ц. выйшлі з ужытку.

*Г. М. Курыловіч.*



Церніца.

Цiскі.

**«ЦЕ́РНІЦА»**, традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Выканаўцы (у танцы прымалі ўдзел толькі жанчыны), паклаўшы адзін другому рукі на плечы, станавіліся ў два кругі. Ідучы ў парах па крузе, яны выконвалі прытопы (імітуючы абіванне льну), адначасова папераменна падымалі і апускалі рукі (быццам церлі лён церніцай). Танец часта суправаджалі прыпеўкамі: «А на вуліцы сама церніца трэ,//А да мяне сама дзеўчына ідзе!//А я тую церніцу паламлю,//А да сябе дзеўчыну прыгарну». Танцавалі «Ц.» і на вяселлі, тады рухі танца насілі пераважна імправізацыйны характар. Зафіксаваны ў Брэсцкай і некаторых раёнах Мінскай абл. У Пінскім, Лунінецкім, Столінскім і інш. р-нах была вядома таксама «Полька-церніца», якую выконвалі рухамі полькі ў парах.
*Г. К. Каляда.*

**ЦЕСЦЬ**, жончын бацька.

**ЦЁШЧА**, жончына маці.

**ЦЕРЛІ́ЧКА**, ганчарны выраб; невялікая гліняная пасудзіна з пукатымі бакамі, носікам і ручкай аб'ёмам 0,5—0,7 л. Ужывалася для кароткачасовага захоўвання і падачы смятаны на стол. Выраблялі паліванай, нярэдка апляталі бяростай. Бытавала на Віцебшчыне і Магілёўшчыне.

**ЦЁТКА**, 1) бацькава або матчына сястра; жонка дзядзькі. 2) Дарослая жанчына наогул, зварот да старэйшай па ўзросту жанчыны.

**ЦЁЦЯ**, багіня дабрабыту і ўрадлівасці ў язычніцкай міфалогіі ўсходніх славян. У каляндарным цыкле беларусаў яе ўладаранне прыпадала на перыяд жніва і да канца збору ўраджаю на палях, агародах і ў садах. Уяўлялі Ц. прыгожай, мажнаю жанчынаю з жытнім вянком на галаве, у руках трымала бохан хлеба, садавіну, агародніну, якімі адорвала кожнага стрэчнага. Была сімвалам дабраты і шчодрасці. Галоднаю зімою ці вясною селянін гаварыў: «Голад не Цёця, падапрэ — лыка з'ясі». Магчыма, гэты выразператварыўся ў прымаўку «голад — не цётка».
*І. П. Хаўратовіч.*

**ЦІСКІ́**, прыстасаванне для заціску і ўтрымання прадмета пры апрацоўцы. Драўляныя Ц. (рэгіянальная назва столак), якімі карысталіся *рымары* пры шыцці збруі, складаліся з дзвюх паўкруглых дошак са шрубай пасярэдзіне. Металічныя Ц. (слясарныя і інш.) маюць дзве пласціны, якімі заціскаюць прадмет пры дапамозе шрубы.

**ЦІТО́ВІЧ** Генадзь Іванавіч [25.7(7.8).1910, в. Новы Пагост Міёрскага р-на — 21.6.1986], беларускі савецкі харавы дырыжор, этнамузыказнавец, кампазітар. Нар. артыст СССР (1968), нар. артыст БССР (1955). Вучыўся ў Віленскім ун-це (1936—39). Скончыў Віленскую кансерваторыю (1939). У 1939—41 і 1945—51 рэдактар абласнога радыё, кансультант Дома нар. творчасці ў Баранавічах. У 1974—75 старшы навуковы супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Стварыў у в. Вял. Падлессе Ляхавіцкага р-на нар. хор (1952), рэарганізаваны ў 1959 у Бел. дзярж. ансамбль песні і танца, у 1964— у Дзярж. нар. хор БССР, якім кіраваў да 1974. Вёў вял. збіральніцкую, навуковую, прапагандысцкую дзейнасць. Запісаў больш за 3 тыс. беларускіх (пераважна), рускіх, украінскіх, польскіх, балгарскіх, літоўскіх, латышскіх нар. песень, танцаў, інструментальных найгрышаў. Зрабіў для хору шмат канцэртных апрацовак уласных запісаў. У зборніках бел. нар. песень, складзеных на аснове крытэрыю мастацкіх якасцей іх напеваў і тэкстаў, раскрыў жанрава-стылявое багацце бел. песеннага фальклору. Даследаваў міжслав. і славяна-балцкія народнапесенныя сувязі, гіст. развіццё бел. нар. музыкі, бел. нар. шматгалоссе, традыцыйны і сучасны фальклор у музычным побыце вёскі. Зрабіў значны ўклад у станаўленне і развіццё самадзейнага музычнага мастацтва Беларусі. Актыўна выступаў у перыядычным друку, аўтар шэрагу цыклаў тэле- і радыёперадач. Дзярж. прэмія БССР 1978. Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1968.

*Тв.:* Белорусские волочебные песни. Вильнюс, 1935; Беларускія народныя песні. Для двух галасоў. Мн., 1948; Песни счастья. М.; Л., 1950; Песні беларускага народа: Выбранае. Мн., 1959; Современная белорусская песня. М., 1961; Польскія народныя песні. Мн., 1962; Анталогія беларускай народнай песні. 2 выд. Мн., 1975; О белорусском песенном фольклоре: Избранные очерки. Мн., 1976; Добры вечар! Мн., 1986.
*Т. Б. Варфаламеева.*

**ЦІТО́Ў** Віктар Сцяфанавіч (н. 15.11. 1938, в. Дражэнічы Крычаўскага р-на), беларускі савецкі этнограф і гісторык.



Г. І. Цітовіч.

Канд. гіст. навук (1972). Скончыўшы Магілёўскі пед. ін-т (1963), працаваў настаўнікам у Брэсцкай і Мінскай абл., інспектарам у Мін-ве асветы БССР (1973—74), выкладчыкам у Гродзенскім пед. ін-це (1974—77), з 1977 старшы навуковы супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе промыслы і рамёствы, традыцыйна-бытавую культуру беларусаў, праблемы яе класіфікацыі і параўнання, этнічную гісторыю і геаграфію Беларусі, нар. звычаі і абрады. Аўтар прац: «Народныя дрэваапрацоўчыя промыслы Беларусі (1917—1941 гг.)» (1976), «Гісторыка-этнаграфічнае параўнанне матэрыяльнай культуры беларусаў: XIX — пачатак XX ст.» (1983), раздзелаў «Некаторыя пытанні этнагеаграфіі Беларусі (дарэвалюцыйны перыяд)», «Дрэваапрацоўчыя рамёствы» і «Інтэр'ер жылля і падсобных памяшканняў»; «Асноўныя

тэндэнцыі развіцця промыслаў і рамёстваў» і «Дрэваапрацоўчыя рамёствы»; «Народныя традыцыі і звычаі ў сучаснай каляндарнай абраднасці: Святы Новага года і праводзін зімы» ў калектыўных працах «Праблемы рассялення ў БССР» (1980), «Помнікі этнаграфіі» (1981), «Промыслы і рамёствы Беларусі» (1984), «Святы і абрады ў Беларускай ССР» (1988). Сааўтар раздзелаў у кн. «Палессе. Матэрыяльная культура» (Кіеў, 1988). Удзельнічаў у распрацоўцы навукова-метадычных прынцыпаў музейнага будаўніцтва і аховы этнагр. помнікаў. Абгрунтаваны ім гісторыка-этнагр. рэгіёны пакладзены ў аснову экспазіцыйнай структуры Бел. дзярж. музея нар. архітэктуры і побыту («Гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны ў экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту», 1982). *Л. А. Суднік.*

**ЦІШКЕ́ВІЧ** Міхайла, беларускі гуманіст і мысліцель 16 ст.; гл. *Літвін* Міхалон.

**ЦІ́ШЧАНКА** Іван Кірылавіч (н. 22.5.1930, в. Улукі Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл.), беларускі савецкі фалькларыст. Канд. філал. навук (1969). Чл. КПСС з 1969. Скончыў БДУ (1956). З 1957 працуе ў Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе праблемы бел. фалькларыстыкі, жанры фальклору. Аўтар кніг «Беларуская частушка. Пытанні генезісу жанру» (1971), «Жыццё песні» (1984), «Да народных вытокаў» (1986). Складальнік кніг «Беларускія частушкі» (1960, з К. П. Кабашнікавым), «Жартоўныя песні» (1977), «Песні пра каханне» (1978), «Сямейна-бытавыя песні» (1984), «Сацыяльна-бытавыя песні» (1987, з В. І. Скідан ам), «Прыпеўкі» (1989) са зводу «Беларуская народная творчасць» (за ўдзел у складанні Дзярж. прэмія БССР 1986). Сааўтар калектыўных манаграфій «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць» (1967), «Беларуская фалькларыстыка» (1989). *Л. А. Суднік.*

**ЦУРА́**, даўняя рэдкая страва. Называлі таксама цюпка; гл. ў арт. *Рулі, Каплун.*

**ЦУ́РКА**, прылада для вязання снапоў, кулёў саломы. У некаторых мясцовасцях называлася закрутка. Невялікая палачка (даўж. 30—45 см, дыяметр 2,5—3,5 см), у якой адзін канец танчэйшы і звычайна з зарубінамі, другі — таўсцейшы і нярэдка з разьбяным геаметрычным арнаментам (узоры ў выглядзе зігзагаў, касых ліній, ромбікаў і інш.). Адмыслова ўпрыгожаную Ц. хлопец дарыў каханай дзяўчыне, брат сястры, муж жонцы, таму на ёй нярэдка сустракаліся жаночыя імёны і ініцыялы. Ц. была пашырана пераважна ў паўд. частцы Беларусі. *А. Ф. Літвіновіч.*

**«ЦЫГА́Н»**, маска-персанаж у каляндных, мікольскіх, вясельных абрадах. Узнік у познім сярэднявеччы, быў пашыраны ў дарэвалюцыйную эпоху. У наш час выходзіць з ужытку. «Ц.» апраналі пераважна ў старое, зношанае, ірванае адзенне, твар мазалі сажай, у руцэ ці за поясам у яго была пуга. У час калядавання ўваходзіў у калядны гурт (разам з *«дзедам»*, «маладзіцай», *«казой»*, *«кабылай»* і інш. вясельных прысутных: танцаваў, «расхвальваў», «прадаваў», «мяняў» «кабылу» і інш.). У час шчодрай куцці (гл. *Куцця*) ролю «Ц.» выконвалі дзяўчаты: адну з іх пераапраналі «Ц.», другую — «цыганкай». Яны спявалі, танцавалі, «варажылі», за гэта атрымлівалі падарункі. У мікольскіх абрадах у групу «Ц.» уваходзілі мужчына і некалькі жанчын. «Ц.» з дзвюма «цыганкамі» танцаваў, трэцяя «варажыла», астатнія спявалі. Найбольш разнастайнымі былі сімвалічныя дзеянні вясельных «Ц.», ролю якіх выконвалі некаторыя ўдзельнікі вяселля (гл. ў арт. *Вясельныя гульні*). Яны ладзілі своеасаблівае тэатралізаванае прадстаўленне: хадзілі па хатах, танцавалі, спявалі частушкі, «цыганкі» «гадалі», «выпрошвалі» грошы, ежу, розную старызну, імкнуліся залезці ў кішэню, затым «прадавалі» сабранае. Сімвалічныя дзеянні «Ц.» былі найбольш яркімі момантамі вяселля. *М. Ф. Піліпенка.*

**ЦЫГАНЫ́** (саманазва р о м а), этнічныя групы, аб'яднаныя агульнасцю паходжання і мовы. Жывуць у многіх



Цуркі.

краінах свету. Продкі—выхадцы з Індыі (канец 1-га тысячагоддзя н. э.). Агульная колькасць па розных ацэнках ад 2,5 да 10 і больш млн. чал. (даныя ЮНЕСКА). Паводле перапісу 1979, у СССР 209 тыс. чал., з іх у БССР 8408 чал. Мова цыганская (мае дыялекты), большая частка Ц. гаворыць і на мове народа, сярод якога жыве. Веравызнанне Ц. залежыць ад пануючай рэлігіі краіны пражывання, прытрымліваюцца пры гэтым і традыцыйных вераванняў. Падзяляюцца на вандроўных, паўвандроўных, аселых і паўаселых.

На Беларусі вылучаюцца групы т. зв. рускіх Ц. (жывуць на У Беларусі, саманазва «руска рома», веруючыя — праваслаўныя) і бел.-літоўскіх Ц. (у паўн.-зах. раёнах БССР і прылеглых раёнах Літ. ССР, аб'яднаны саманазвай «польска рома», веруючыя — католікі). Лінгвістычна і этнаграфічна бел.-літоўскія Ц. бліжэй да рускіх, чым да Ц., якія жывуць у Польшчы. На землі Беларусі Ц. пераваидравалі ў 15 ст. праз Польшчу і Германію, у канцы 16— пач. 17 ст. з Венгрыі. Вялі вандроўны спосаб жыцця, захоўвалі трывалую сацыяльную структуру (плямёны пад уладай выбарных войтаў, ваяводаў), побытавую спецыфіку. Гал. месца збору вандроўных груп — мяст. Зэльва. У 17 ст. ўлады Рэчы Паспалітай спрабавалі прывучыць Ц. да аселага жыцця і далі ім адміністрацыйныя паўнамоцтвы: выбарныя вярхоўныя правіцелі называліся цыганскімі каралямі, надзяляліся неабмежаванай уладай над Ц. Паўнамоцтвы «каралёў» зацвярджалі магнаты Вял. княства Літоўскага ці каралеўская канцылярыя. Аселыя Ц. пражывалі ў мяст. Мір. Займаліся рамёствамі, імі заснаваны сукнавальні, адкрыты кузні і інш. У 1790-г. колькасць Ц. на бел. землях скарацілася (са сваімі «каралямі» перасяліліся ў Бесарабію, Малдавію і Валахію). Вандраванне без ранейшых кіраўнікоў ва ўмовах абавязковай аселасці ставіла іх па-за законам. Але і прыпісаўшыся да абшчын поўных паселішчаў, Ц. жылі асела толькі ў халодную пару года (звычайна па хатах і гумнах сялян, пазней сталі заводзіць сваё жыллё). Вясною, звычайна ў пач. мая, табарам (3—5 сямей) пад кіраўніцтвам выбарнага важака адпраўляліся ў вандроўкі. Важак вызначаў час і накірунак вандровак, спосаб здабывання сродкаў да існавання, быў афіцыйным прадстаўніком табара перад мясцовымі ўладамі. Для вырашэння спрэчак і канфліктаў існаваў цыганскі суд, у які ўваходзілі найбольш паважаныя і старэйшыя па ўзросту члены табара. Жанчыны поўнасцю падпарадкоўваліся бацьку, потым мужу, займаліся гаданнем, папрашайніцтвам, знахарствам, клапаціліся пра забеспячэнне сям'і харчаваннем. Заняткі мужчын — канакрадства, гандаль коньмі, канавальства, рамёствы (кавальства, пляценне кашоў, разьба па дрэве і інш.). Месцам збору розных груп Ц. былі кірмашы (найбольш збіралася ў Хальчы, Ветцы, Віцебску, Гомелі). Ц. выконвалі абрады таго народа, сярод якога жылі, і традыцыйныя. На вялікдзень, сёмуху, Пятра ва ўмоўленых месцах (у лесе і інш.) некалькі вандроўных груп з'язджаліся для супольнага святкавання. Невялікія вандроўкі рабілі нават аселыя Ц. Шматлікія захады ўлад па прымусоваму асяленню, скарачэнню вандровак былі неэфектыўнымі.

Ц. расселены надзвычай распылена. У 2-й пал. 19 ст. існавала толькі некалькі паселішчаў з поўнасцю цыганскім насельніцтвам: в. Цыганы Гарадоцкага пав., мыза Завячэлле Лепельскага пав., у пач. 20 ст.— в. Лапатнікі і Мяшчэнцы Сенненскага пав. Адзначаліся факты метысізацыі Ц. з беларусамі. Частка Ц. была асімілявана. У гаворках Ц. пад уздзеяннем лексікі бел. нар. гаворак утварыўся шэраг характэрных запазычанняў. Паводле перапісу 1897, Ц. на Беларусі больш за 3 тыс. У час 1-й сусветнай вайны

на У Беларусі перасяліліся групы польскіх Ц. (саманазва «польска рома варшавякі»).

У працэсе рассялення скласіся шматлікія лакальныя групы Ц. Паводле перапісу 1926, у БССР 2366 Ц., найбольшыя групы ў Рэчыцкай (374 чал.), Віцебскай (325), Аршанскай (269) і Магілёўскай (264) акругах. Да 100 чал. было ў Быхаўскім р-не. Пераважная большасць жыла ў сельскай мясцовасці.

Да вывучэння пытанняў гісторыі і этнаграфіі Ц. звярталіся Т. Нарбут (Гістарычны нарыс цыганскага народу. Вільня, 1830; дадаваўся слоўнік цыганскай мовы), У. М. Дабравольскі (Кісялёўскія цыганы. Спб., 1908; прыведзены ўзоры фальклору і звесткі па этнаграфіі рускіх Ц., што жылі сярод беларусаў Смаленшчыны), Дз. І. Даўгяла [Цыганы на Беларусі//Наш край. 1926. № 12(15)].

У 1920—30-я г. ствараліся ўмовы для пераходу Ц. да аселага і працоўнага ладу жыцця, паляпшэння іх культурнага і эканам. становішча. У 1926 на Беларусі пачаў сваю арганізацыйную дзейнасць Усерасійскі саюз цыганоў (1925—28), вялася работа па арганізацыі бел. саюза цыганоў. Пастановы ЦВК і СНК СССР прапанавалі ўладам саюзных рэспублік надзяляць Ц. зямлёю. У 1927 на сядзібе Міхалова Віцебскага р-на створаны першы ў СССР цыганскі калгас «Новае жыццё», была і пачатковая школа. У 1930-я г. існаваў цыганскі калгас у Жлобінскім р-не (недалёка ад Стрэшына).

Пашырэнню культурна-асветнай работы сярод Ц. спрыяла ўвядзенне ў 1926 цыганскай пісьменнасці, з 1932 пачалі дзейнічаць цыганскія педагагічныя курсы ў Маскве. У 1930-я г. ў Віцебску працавала няпоўная сярэдняя цыганская школа (77 вучняў у 1936). Нягледзячы на гэта, большасць Ц. вяла вандроўны і паўвандроўны спосаб жыцця. Вандроўкі адбываліся ў асноўным па тэр. Беларусі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны значная колькасць Ц. знішчана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944—48 пэўная колькасць польскіх Ц. перасялілася ў Польшчу. Да 2-й пал. 1950-х г. узмацняюцца кантакты прадстаўнікоў розных этнагр. груп Ц. Вандроўкі бел. Ц. часта не абмяжоўваюцца межамі рэспублікі, часам у табар уваходзяць і прадстаўнікі іншых этнагр. груп. У 1956 прыняты ўказ Прэзідыума Вярх. Савета СССР «Пра далучэнне да працы цыганоў, якія займаюцца валацужніцтвам». Большасць Ц. перайшла да аселасці і працоўнага ладу жыцця. У некаторых месцах яны аселі кампактна (Паўночны пасёлак у Мінску, пас. Цітаўка каля Бабруйска і інш.), у іншых — масавае насяленне адбылося пазней (у в. Калодзішчы Мінскага р-на). Сяліліся традыцыйна на ўскраінах гарадоў і ў прыгарадах. Працавалі на часовых і выпадковых работах, жанчыны — часта хатнія гаспадыні. У пач. 1960-х г. у Дзяржынску існаваў самадзейны цыганскі ансамбль песні і пляскі.

На Беларусі ў 1959 жыло 4662 Ц., у 1970—6843, у 1979—8408. Павелічэнне іх колькасці звязана між інш. з перасяленнем у БССР прадстаўнікоў іншых этнагр. груп Ц. Большая частка пражывае ў гарадах. З іх 5276 чал. роднай мовай лічылі цыганскую, 1141 — рускую, 347— беларускую, 76 — іншыя; свабодна валодалі рускай — 3973 чал., беларускай — 360 (даныя 1970). Нягледзячы на істотныя змены ў іх этнакультурнай спецыфіцы, ажыўленыя кантакты з насельніцтвам ва ўмовах дысперснага пражывання, Ц. трывала захоўваюць асаблівасці побыту і культуры. Сярод іх пашыраны эндагамныя шлюбы; сем'і, як правіла, мнагадзетныя. Да нядаўняга часу асноўнай гаспадарчай адзінкай былі вялікія сем'і (побач з малымі). Вял. значэнне ў абыходку маюць назвы родаў, назвы-мянушкі больш вузкіх груп сваякоў, асобных прадстаўнікоў родаў і інш. груп; у цыганскім асяроддзі яны маюць большае значэнне, чым прозвішчы. У апошні час прадстаўнікі абедзвюх асноўных груп Ц. Беларусі пры захаванні традыцыйных найменняў усё больш ужываюць адзіную саманазву «бел. рома». *І. В. Карашчанка.*

**ЦЫМБА́ЛКІ,** лакальная назва *брусочкаў*, якая вызначае інструмент па форме і спосабу ігры, характэрных для цымбалаў. Зафіксавана ў канцы 19— пачатку 20 ст. Ч. Пяткевічам у Рэчыцкім Палессі.

**ЦЫМБА́ЛЫ** (польск. cymbały ад лац. cymbalum, грэч. kýmbalon), струнны ўдарны музычны інструмент. Мае рэзанатарны корпус (каробку) трапецападобнай формы. Асновай яго служыць рама, што складаецца з 2 бакавых



Цымбалы.

калодак (бакавін, лучкоў, галовак, рагавікоў, канечнікаў, падставак для калкоў і гваздоў) і 4 брусоў — 2 знешніх (аснова трапецыі) і 2 унутраных (перакладзін, рэек, бэлечак). Да верхняй рэзанансавай дэкі (верху, грудзей) знутры прыклейваюцца 2 душкі (дзве душы для гуку, падстаўкі для ўпору, падкладкі для конікаў), а зверху яе ўстанаўліваюцца 2 або 3 падстаўкі для струн (басовы і галасавыя конікі, кабылкі, козлікі, падстаўкі для струн). У верхняй дэцы прарэзваюцца 2 рэзанансавыя адтуліны (галаснікі, дзіркі для гуку), якія звычайна маюць форму круга з упісаным у яго ромбам, кветкай, зорачкай. Колькасць радоў струн у Ц. вагаецца ад 12 да 24, а колькасць струн у пасме (тальцы) — ад 3 да 8. Найбольш пашыраны Ц. з 3—4 струнамі ў пасме. Чапляюцца струны, як у кроснах, г. зн. адна пасма,



што ідзе паверх басовай падстаўкі, праходзіць у адтуліну галасавой, а суседняя з ёй, што ідзе паверх галасавой, праходзіць у адтуліну басовай. Замацоўваюцца струны з аднаго боку пры дапамозе накінутай на гваздок пятлі, з другога — шляхам зациску праломленага канца праз зарубінку і абвівання вакол калка. Пры ўдары палачак (малаточкаў, кручкоў) па струне калышацца толькі тая яе частка, што знаходзіцца паміж двума пунктамі апоры (падстаўкай і парожкам). У залежнасці ад размяшчэння струн на падстаўках нар. цымбалісты адрозніваюць «басы» (назва гукаў, што здабываюцца злева да басовай падстаўкі) і «акордныя», «парныя», якія ўзнікаюць у выніку дзялення струны галасавой падстаўкай прапарцыянальна 2 : 3 (гукі строяцца ў квінту) і 3 : 4 (гукі строяцца ў кварту). Парныя гукі падзяляюцца на тонкія і больш грубыя, на альты-тонары і дзішканты. Самая верхняя струна Ц., што ідзе паверх маленькай падстаўкі, дае інтэрвал вялікай секунды, або квінты. Адсюль назва гэтай струны — секунда, верхавая, рымка. Настройваюць інструмент з дапамогай спецыяльнага (наваднога) ключа, які мае выгляд малатка.

Строй бел. Ц. бывае просты, любіцельскі, высокі, нізкі, мінорны (гітарны), скрыпічны, баянны або раяльны (паўтонны); кожны з іх мае пэўныя асаблівасці будовы Ц. Дыяпазон Ц.— ад паўтары да двух з паловай актаў з гукарадам, які ахоплівае ад 18 да 24 тонаў. У нар. музычнай практыцы выкарыстоўваюцца Ц.-альты, Ц.-тэнары, Ц.-басы і Ц.-кантрабасы, тэсітура якіх абумоўлівае замацаванне за інструментам функцыі басовай апоры. Гук Ц. яркі, моцны, багаты на абертонавыя прыгукі, якія захоўваюцца, бо пры ігры струны не глушацца. Іграюць на Ц. (б'юць, пераць на Ц.) седзячы, паклаўшы іх на калені, або стоячы, ходзячы, падвесіўшы на рамяні. Вырабляюць Ц. звычайна сталяры або самі выканаўцы, выкарыстоўваючы на верхнюю дэку елку-драбнаслойку, на раму — дуб, бук, клён, межаватую бярозу, на ніжнюю дэку — елку, клён, ясень, на падстаўкі для струн — клён, ясень, бярозу, на калкі і гваздзікі, струны — метал, на палачкі — клён, граб, ліпу, яблыню, грушу, бярозу. Добра вядомы інструменты, зробленыя М. П. Такушэвічам з Маладзечанскага, М. М. Міронам з Дзяржынскага, І. І. Лычкоўскім з Чэрвеньскага р-наў Мінскай вобл., О. Н. Новікам з Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. і інш. Ігры на Ц. навучаюцца (па слыху, сам праз сябе) ад бацькоў або ад вядомага ў наваколлі «майстра». Ц.— інструмент ансамблевы (толькі ў некаторых раёнах Міншчыны, напр. Пухавіцкім, Маладзечанскім, яны выкарыстоўваюцца і як сольны інструмент), які традыцыйна спалучаецца са скрыпкай, катрынкай,

кларнетам, гармонікам (у мінулым і з дудой), бубнам ці талеркамі. У ансамблях Ц. выконваюць аднačасова некалькі функцый — меладычную, ударна-рытмічную (Ц.— нерв музыкі), гарманічную і каларыстычную. Ансамблі з удзелам Ц. іграюць звычайна на вяселлях, хрэсьбінах, вечарынках, бяседах, дзе шмат танцуюць і спяваюць агульнавядомыя песні позняга гістарычнага паходжання. Ц. пашыраны на Міншчыне (за выключэннем паўд. раёнаў), Віцебшчыне, часткова на Гродзеншчыне, Гомельшчыне і Магілёўшчыне (у раёнах, што мяжуюць з Міншчынай). Найбольш раннія ўпамінанні пра Ц. сустракаюцца ў літаратурных помніках Беларусі 16 ст. Ц. апеты народам у песнях. А. Куляшоў склаў пра іх паэму «Прыгоды цымбал». *І. Дз. Назіна.*

**ЦЫНО́ЎКА,** пляцёнка з мачал, трыснягу, саломы. Ніткі (стужкі) для яе асновы сукалі (скручвалі).

**ЦЫ́РКУЛЬ** (ад лац. circulus круг), інструмент для правядзення акружнасці і абмеру. Выкарыстоўваецца ў цяслярстве, бондарстве, сталярным, стальмашным, даўбёжным рамястве. Пашыраны драўляныя і металічныя Ц. У драўляных (рабілі іх з бярозы і інш. парод дрэва) ножкі ўверсе злучаліся. Часам адна з іх была даўжэйшай у верхняй частцы і служыла ручкай. У канцы ножак убіваліся цвічкі. Ножкі фіксаваліся ў патрэбным становішчы штыром. Вышыня Ц. 33—80, шырыня 2,5—3,5, найбольшая шырыня разводу ножак у рабочым стане 32—106 см. Больш дасканалы паводле канструкцыі металічны Ц. Ножкі ў ім плоскія, унізе вострыя. *А. Ф. Літвіновіч.*

**ЦЫ́ТРА** (ням. Zither ад грэч. kithára кіфара), струнны шчыпковы музычны інструмент. Называлі таксама гуслі. Драўляны корпус-рэзанатар Ц. меў форму прамавугольніка з адным зрэзаным вуглом або адным фігурна выразаным бокам. Над верхняй дэкай-«дошкай», у якой зроблена адна адтуліна-«галаснік», нацягнуты металічныя струны (12—25, у большасці па 2 у хоры-«пасме»). Тры басавыя струны служаць для суправаджэння і настройваюцца ў квінту і кварту (або секунду); астатнія, настроеныя ў дыятанічнай паслядоўнасці, выкарыстоўваюцца для выканання мелодыі. Над струнамі, перпендыкулярна ім, замацаваны 3 дошчачкі-«клапаны», з націсканнем кожнага гучыць адзін з трох «гатовых» акордаў асн. гарманічных функцый (T—S—D). Гучанне Ц. пяшчотнае, немоцнае, але даволі звонкае, суправаджалася непарыўным гудзеннем прыгукаў, якія наслойваюцца адзін на аднаго і павісаюць у паветры.

Пры ігры музыкант клаў Ц. на калені або на падстаўку, бразгаў па струнах або зашчыпваў іх пальцамі (часам з дапамогай плектра), а левай рукой націскаў на клапаны. На саморобных Ц. ігралі танцы на вяселлях, бяседах, ігрышчах (сола ці ў ансамблі са скрыпкай ці гармонікам, са скрыпкай, цымбаламі, барабанам). Выкарыстоўвалі яе і для суправаджэння прыпевак, жартоўных песень. Яшчэ ў 1930-я г. Ц. бытавала ў Чэрвеньскім, Стаўбцоўскім, Пастаўскім, Докшыцкім і Навагрудскім р-нах. Ц., якая пашырылася на Беларусі ў 2-й пал. 19 ст., знікла з вясковага побыту пасля Вял. Айч. вайны. *І. Дз. Назіна.*

**ЦЭ́БАР,** драўляны гаспадарчы посуд з клёпак (кляновых, ліпавых, дубовых, асінавых, бярозавых). Сярэдні дыяметр 40—50 см, вышыня 50—60 см, дно трохі вузейшае, верх — шырэйшы; былі і прамыя Ц. У Ц. замешвалі сечку, рабілі «паранку» (сечку залівалі кіпнем) карове, каню. Ц. меншых памераў выкарыстоўвалі для прыгатавання пойла цялятам, ягнятам. Дзеля зручнасці пераносу ў «вушках» (даўжэйшых процілеглых клёпках) свідравалі адтуліны, у якія можна было прасунуць палку. Пусты Ц. пераносіў за «вушкі» адзін чалавек, а напоўнены неслі ўдваіх, узяўшыся за канцы прасунутай палкі.



Цытра. Горад Чэрвень. 1930-я г.



Цыркуль драўляны.



Цэбар.

**ЦЭ́ГЛА,** штучны будаўнічы матэрыял з гліны і іншай мінеральнай сыравіны ў выглядзе брускоў рознай формы. На Беларусі вядома з 11 ст. У 11—12 ст. выкарыстоўвалі Ц. нязначнай таўшчыні — плінфу (спачатку была амаль квадратнай формы, потым набыла форму прамавугольніка). Для выкладкі архітэктурных дэталей (паўкалонак, парталаў, слупоў) выраблялі фігурную (лякальную) плінфу ў выглядзе трапецыі, паўкруга і інш. Некаторыя цаглiны мелі рэльефныя адбіткі на рэбрах у выглядзе геаметрычных знакаў або літар, клеймы, зробленыя спецыяльнай пячаткай, і інш. У 13 ст. плінфу змяніла буйнапамерная Ц.-пальчатка з адбіткамі пальцаў на паверхні (пачынаючы з 15 ст. барозны на Ц. рабілі і спецыяльнай прыладай накшталт грабянца). Поруч з прамавугольнай выраблялі і фігурную Ц. (Ц.-сырэц да патрэбнай формы абразалі нажом). Для аздаблення неабтынкаваных фасадаў цагляных будынкаў выкарыстоўвалі перапаленую Ц.-клінкер цёмна-сіняга, амаль чорнага, колеру (з яе выкладалі розныя ўзоры). Выраблялі Ц. звычайна спецыяльныя майстры-цагельнікі. Пасля фармоўкі Ц. высушвалі (да 18 ст. Ц. сушылі на спецыяльных пляцоўках пад адкрытым небам) і абпальвалі ў печах. На працягу стагоддзяў форма і памеры Ц. мяняліся і ў 19 — пач. 20 ст. набылі амаль сучасны выгляд. Яе выраблялі на прыватных цагельных заводах, якія мецілі сваю прадукцыю спецыяльнымі клеймамі. На свае патрэбы Ц.-сырэц сяляне найчасцей выраблялі самі. Як будаўнічы матэрыял Ц. шырока ўжываецца і ў наш час. *А. А. Трусаў.*

**ЦЭЙХГА́ЎЗ** (ням. Zeughaus ад Zeug зброя + Haus дом), будынак, прызначаны для захавання ваеннай зброі і боепрыпасаў, часткова для іх вырабу і рамонту; тое, што і *арсенал.*

**ЦЭНТРА́ЛЬНАЕ БЮРО́ КРАЯЗНА́ЎСТВА,** грамадскі орган па арганізацыі і кіраўніцтву краязнаўчым рухам на Беларусі ў 1920—30-я г. Дзейнічала з 1923 пры Інбелкульце, у 1929—36 пры АН БССР. Старшыні М. І. Бялуга, В. А. Серафімаў, адказны сакратар С. В. Скандракоў, навуковыя сакратары М. І. Каспяровіч, В. А. Самцэвіч і інш. У бюро ўваходзілі К. Крапіва, У. Пічэта, М. Азбукін, А. Фядзюшын, В. Пераход.

Вывучала формы, метады і кірункі

краязнаўчай работы, праводзіла ўлік краязнаўчых т-ваў і гурткоў, аказвала ім метадычную дапамогу, забяспечвала літаратурай і бібліяграфічнай інфармацыяй, каардынавала іх дзейнасць з дзярж. і навуковымі арганізацыямі. Шырока прапагандавала краязнаўчую работу, праводзіла ўсебел. з'езды і канферэнцыі краязнаўцаў. Садзейнічала падрыхтоўцы краязнаўчых кадраў: праводзіла іх вучобу на спецыяльных курсах, распрацавала план курса па краязнаўству для ВНУ і тэхнікумаў. З кастр. 1925 выдавала час. «Наш край» (з ліст. 1930 *«Савецкая краіна»*), зборнікі, дзе змяшчаліся матэрыялы краязнаўчых з'ездаў і канферэнцый, рэцэнзіі на краязнаўчыя выданні, праграмы і інструкцыі. *Л. Г. Амяльковіч.*

**ЦЭНТРА́ЛЬНАЯ БЕЛАРУ́СЬ,** гісторыка-этнаграфічны рэгіён, які займае асноўную частку Мінскай і заходнюю ўскраіну Магілёўскай абласцей. На Пн мяжуе з *Паазер'ем* па Мінскім узвышшы паўночней Барысава, на У — з *Падняпроўем* па р. Бярэзіна, на Пд — з *Усходнім Палессем* па лініі Парычы — Старобін — паўночней Ганцавіч, на З — з *Панямоннем* па Налібоцкай пушчы (карту гл. ў арт. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён*).

Насельніцтва Ц. Б. этнагенетычна склалася на слав. аснове (патомкі дрыгавічоў і крывічоў) з удзелам асобных груп палякаў, рускіх, яўрэяў, татараў і інш. У 11 ст. паўн. частка рэгіёна ўваходзіла ў склад Полацкага княства, у пач. 12 ст. вылучылася ў самастойныя Мінскае, Ізяслаўскае і Лагожскае княствы. Пасля ўваходжання ў Вял. кн. Літоўскае (пач. 14 ст.) тут пэўны час прадаўжала правіць мясцовая княжацкая дынастыя (з пач. 15 ст. Мінскі ўдзел знаходзіўся пад кіраваннем віленскага ваяводы), з 1566 Мінск стаў цэнтрам ваяводства. Гіст. лёс паўд. часткі Ц. Б. ў старажытнасці быў цесна звязаны з другім раннефеадальным аб'яднаннем — Тураўскім княствам, у якім вылучыліся Слуцкі і Клецкі ўдзелы. У канцы 12 ст. Слуцкі ўдзел стаў самастойным княствам, якое ў складзе Вял. кн. Літоўскага і Рэчы Паспалітай захоўвалася як асобная адміністрацыйная адзінка да канца 18 ст. Мясцовыя князі Алелькавічы і Радзівілы былі буйнейшымі землеўладальнікамі, мелі сваё войска і аўтаномны апарат кіраўніцтва. Пасля далучэння да Расіі (1793) Ц. Б. цалкам увайшла ў склад Мінскай губ. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі рэгіён стаў асноўным масівам утварэння БССР (зах. частка ўз'яднана ў 1939).

У сярэднія вякі Ц. Б. размяшчалася на сумежжы двух гіст. абласцей — Белай і Чорнай Русі — тэрыторыі найбольш актыўных балта-слав. кантактаў. Як этнагр. рэгіён са сваімі адметнымі рысамі яна склалася ў адносна позні час (18—19 ст.). Разам з тым Ц. Б. адыграла адметную ролю ў фарміраванні бел. народнасці і яе культуры. Стар. гарады Слуцк, Нясвіж, Клецк, Капыль і інш. доўгі час былі буйнымі цэнтрамі культуры і ачагамі паліт. руху ў барацьбе за нацыянальнае адраджэнне. Этнакультурны комплекс Ц. Б. сканцэнтраваў у сабе, нібы ў фокусе, шматлікія рысы і элементы, характэрныя амаль для ўсіх рэгіёнаў Беларусі. Тут сустракаюцца таксама арэалы этнагр. прыкмет, уласцівых як беларусам, так і суседнім народам (сохі рускага і літоўскага тыпаў, розныя варыянты гаспадарчых пабудоў і інш.). Мясцовая тапаніміка, якая адлюстравала доўгі працэс слав. і славяна-балцкіх сувязей, вызначаецца складанасцю і неаднароднасцю. Лінгвістычная карта вылучае мясцовыя гаворкі ў асобную групу сярэднебел. гаворак, што ўяўляюць пераходнае, міждыялектнае ўтварэнне (гл. *Дыялектная мова*).

У перыяд позняга феадалізму Ц. Б. знаходзілася ў сферы безраздзельнага панавання фальварачна-паншчыннай сістэмы гаспадаркі, што накладвала свой адбітак на сацыяльныя адносіны і аблічча вёсак. Пераважную частку зямель складалі буйныя латыфундыі бел. магнатаў Агінскіх, Хадкевічаў, Пацеяў, Сапегаў, Пацаў, Тышкевічаў. Прыкметную ўдзельную вагу складала дробная шляхта, сярод якой вылучаліся т. зв. падпанкі і арандатары. Частка шляхты пасля паўстання 1830—31 была пераведзена ў аднадворцы (асабліва многа іх пражывала ў Мінскім і Слуцкім пав.). Экспансія каталіцтва значна ўскладняла канфесіянальную і этнасацыяльную структуру, вяла да дэнацыяналізацыі часткі бел. насельніцтва. У 1863 каталікі складалі больш чвэрці насельніцтва рэгіёна, а ў Мінскім пав. іх колькасць дасягала 95% (у пераважнай большасці яны лічыліся палякамі). Паводле перапісу 1897, у якім этнавызначальнай была родная мова, у рэгіёне налічвалася 75,3% беларусаў, 16 — яўрэяў, 4,8 — рускіх, 3,5% — палякаў.

Ц. Б. была заселена і асвоена неаднолькава, што адлюстравалася ў разнастайнасці культурных ландшафтаў. У сярэдзіне 19 ст. пад ворывам у Слуцкім і Мінскім пав. знаходзілася больш палавіны ўсёй плошчы, у той час як у Бярэзінскім басейне — толькі каля 20%. Земляробства было найбольш развіта на Слуцка-Нясвіжскай раўніне («беларускай Украіне»), дзе ўраджаі збожжавых у 1-й пал. 19 ст. нярэдка былі ў 2 разы вышэйшыя, чым на землях Барысаўскага і Ігуменскага пав. Земляробства ў басейне Бярэзіны насіла экстэнсіўны характар, тут яшчэ ў 2-й пал. 19 ст. побач з трохполлем нярэдка сустракалася лясная аблога і падсека. У жывёлагадоўлі больш прыкметную ролю адыгрывала развядзенне коней; шырокае распаўсюджанне тут атрымалі лясныя промыслы.

Характар сельскіх пасяленняў прыкметна мяняўся з ПнУ на ПдЗ і Пд ад параўнаўча невялікіх вёсак, рассеяных сярод лясоў, да мнагадворных сёлаў, густа размешчаных на адкрытай мясцовасці. У т. зв. устаўных вёсках жыллё і хлявы будавалі на адным баку вуліцы, а некаторыя гаспадарчыя памяшканні (гумны, адрыны, свірны) — на другім. Пасяленні вызначаліся выразнай планіроўкай; шлях сюды нярэдка вёў праз браму, якая на ноч зачынялася. Аграрная перанаселенасць, што яскрава выявілася ў канцы 19 ст., паступова мяняла аблічча вёсак, павялічвала скучанасць сядзібных забудоў. У Ц. Б. вядомы амаль усе тыпы сядзібнай забудовы, што сустракаліся на Беларусі. Найбольш тыповай была пагонная забудова. Традыцыйнае сялянскае жыллё — 2- і 3-камернае тыпу хата+сенцы, хата+сенцы+клець. Сустракаліся і хаты-пяцісценкі (хата+хата+сенцы). Да сянец часам прыбудоўваўся ганак. Зруб ставілі з сасновых бярвён (кругляка), звязаных у просты вугал з астаткам («у чашку»). Будаўніцтва ў нар. практыцы было абстаўлена пэўнымі абрадавымі нормамі і абярэгамі, што звязваліся з выкарыстаннем будаўнічых матэрыялаў, выбарам месца для жылля, закладкай падмурка («закладзіны»), узвядзеннем страхі («кветка») і інш. Стрэхі крылі саломай «пад шчотку» («пад стрыхалку»), на У пераважала драўлянае пакрыццё.

Нар. адзенне Ц. Б. да канца 19 ст. захоўвала шэраг традыцыйных рыс. Верхнюю вопратку — світу з адкладным, радзей стаячым каўняром, крыху звужаную ў таліі,— шылі з шэрага ці чорнага сукна, па баках, каўняры, адваротах рукавоў упрыгожвалі каляровымі (блакітнымі, сінімі) шнуркамі. Для жаночага комплексу найбольш тыповымі былі дэкарыраваная кашуля з полікамі, суконны андарак (або льняная спадніца), фартух, безрукаўка, на галаве — чапец-«каптур», часта з вушкамі, хустка, намітка, на шыі — некалькі радоў караляў. Асаблівай разнастайнасцю і багаццем узорных упрыгожванняў вылучаліся *капыльска-клецкі строй* і *пухавіцкі строй*. Для народнага адзення Случчыны ўласцівы няяркія, часам гафрыраваныя спадніцы (палатнянікі), узоры малюнак якіх складалі плаўныя пераходы колераў гарызантальных палос. Спакойная танальнасць характэрна і для андаракоў, тканы (паласаты або клятчаты) узор якіх заснаваны на прыглушаным кантрасце чорнага і белага колераў.

Мясцовая кераміка па сваёй тэхналогіі і мастацкіх якасцях вызначалася разнастайнасцю і спалучала ў сабе рысы, уласцівыя суседнім рэгіёнам. У адных і тых жа ганчарных цэнтрах былі вядомы некалькі спосабаў апрацоўкі гліны і вырабу посуду. Фармовачную масу рыхтавалі звычайна з гліны аднаго сорту, часам — з дабаўкай жарствы, і апрацоўвалі на нажным ганчарным крузе з рухомай воссю. Посуд абпальвалі (гартавалі) у чатырохвугольных горнах, радзей у хатніх печах. У 19— пач. 20 ст. найбольш пашыраным быў задымлены і паліваны посуд; у сельскіх цэнтрах (Сіняўка, Забалатнікі, Ганявічы, Масцілавічы Слуцкага, Семяновічы Ігуменскага пав.) выраблялі

пераважна абварную кераміку. Вырабы распісвалі сціплым узорам у выглядзе хвойных галінак, стылізаваных кветак, пояскоў, хвалістых ліній (*іванецкая кераміка, ракаўская кераміка*).

Паводле этнагр. матэрыялу (рассяленне, арганізацыя жылля, асаблівасці гаспадарчых заняткаў і аграрнай культуры, адзенне і інш.) у межах рэгіёна можна вылучыць 3 лакальныя раёны — паўночны (Мінск), паўд. (Слуцка-Нясвіжскі) і ўсх. (Бярэзінскі). Шляхі эвалюцыі феадальнай гаспадаркі, правядзенне валочнай рэформы, падворнае землекарыстанне, адносна ранняе пранікненне капіталістычных адносін у сельскую гаспадарку, этнаканфесіянальная сітуацыя, асаблівасці жылля і адзення — усё гэта выяўляе рысы падабенства Ц. Б. і суседняга Панямоння. З другога боку, культурны ландшафт Бярэзінскага лакальнага раёна мае пераходны характар, блізкі суседняму Падняпроўю, што абумоўлівае невыразнасць межаў паміж гэтымі рэгіёнамі. *В. С. Цітоў.*

**ЦЭП,** працейшая драўляная прылада для малацьбы збожжа. Складаецца з гладка выструганай палкі — цапільна (даўж. 1,25—2 м, дыяметр 2,5—4 см) і біча (даўж. 45—95, дыяметр 3,5—5 см), рухома змацаваных паміж сабой. Звычайна біч быў круглы (на Пд сустракаўся і чатырохгранны) з патаўшчэннем на канцы. Цапільна рабілі з лёгкіх парод (хвоі, ляшчыны), біч — з цвёрдых парод дрэва (дубу, грабу і інш.). Спосабы мацавання біча да цапільна: гужавы, або гужыкам (у паўн., паўд.-ўсх., усх., цэнтр., радзей у зах. раёнах), з дапамогай адной ці двух капіц (паўд.-ўсх., паўд.-зах. і цэнтр. раёны Беларусі), пятліцавы (сустракаўся ў Паўд.-Зах. Палессі) і хамуцікам (паўд.-ўсх., цэнтр., радзей усх. раёны). *А. Ф. Літвіновіч.*

**ЦЭЎКА,** драўляная палачка даўжынёй 14—16 см з утаўшчэннямі на канцах, на якую накручвалі (насуквалі) уточную пражу. Пры тканні ўстаўлялася ў *чаўнок.* Ніткі на Ц. навівалі пры дапамозе *сукала.*

**ЦЭ́ХІ РАМЕ́СНІКАЎ,** аб'яднанні (карпарацыі) рамеснікаў адной ці некалькіх блізкіх прафесій у гарадах феадальнай эпохі, заснаваныя на прымусовым членстве. Найбольш ранняе ўпамінанне ў бел. гарадах адносіцца да канца 15 ст. Першапачаткова рамесныя карпарацыі ў розных гарадах Беларусі называліся па-рознаму: сотня (у Гродне), брацтва (у Полацку, Мінску), старостра (у Магілёве). На працягу 16 ст. усталявалася ва ўсіх гарадах назва цэх. Кожны цэх меў свой статут, які рэгламентаваў усю вытворчую дзейнасць майстроў, унутрыцэхавыя адносіны, парадак прыёму ў цэх, адносіны цэха да гарадскога самакіравання, выкананне рэлігійных абрадаў. Кіраваў Ц. р. *цэхмістр.* У 2-й пал. 18 ст. Ц. р. на Беларусі пачалі занепадаць і паступова саступілі месца мануфактурам. *З. Ю. Капыскі.*

**ЦЭХМІ́СТР,** кіраўнік *цэха рамеснікаў.* Выбіраўся на год сходкай майстроў з асяроддзя старэйшых, якімі лічыліся майстры — заснавальнікі цэха і прынятыя ў іх лік майстры, што мелі працяглы стаж прабывання ў цэху.

**ЦЯГА́КА** Лідзія Іванаўна (н. 21.2.1937, г.п. Кампанieўка Кіраваградскай вобл.), беларускі савецкі антраполаг. Канд. гіст. навук (1970). Скончыла Мінскі медыцынскі ін-т (1960). З 1969 працуе ў Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (з 1973 старшы, з 1986 вядучы навуковы супрацоўнік). Даследуе праблемы часавай і прасторавай зменлівасці морфа-функцыянальных прыкмет людзей. Аўтар навуковых і навукова-папулярных прац, у т. л. «Нарысаў па антрапалогіі Беларусі» (1976; з І. І. Салівон, А. І. Мікулічам).

*Тв.:* Антропология Белорусского Полесья: (Демография, этническая история и генетика). Мн., 1978 (разам з А. І. Мікулічам, І. І. Салівон); Биологическое и социальное в формировании антропологических особенностей (по данным исследования населения Поозерья). Мн., 1981 (разам з І. І. Салівон, А. І. Мікулічам); Экологические аспекты в антропологических исследованиях на территории БССР. Мн., 1982 (разам з І. І. Салівон); Дерматоглифика населения Белоруссии: Популяционные аспекты изменчивости. Мн., 1989. *С. П. Самуэль.*

**ЦЯ́ГЛЫЯ СЯЛЯ́НЕ,** феадальна-залежныя сяляне, галоўнай формай зямельнай рэнты якіх была адработка, асноўная павіннасць — паншчына. Катэгорыя Ц. с. узнікла ў 15 ст. ў сувязі з пераўтварэннем панскай дваровай гаспадаркі ў фальварак. Да валочнай памеры адзінкай абкладання Ц. с. была *служба,* пасля — валока. У 15 — пач. 16 ст. за карыстанне зямлёй павінны былі працаваць на паншчыне 1 дзень у тыдзень са службы, паводле «Уставы на валокі» 1557—2 дні ў тыдзень з валокі. У 2-й палове 18 ст. паншчына дасягала 8—16 дзён у тыдзень з валокі. Выконвалі і інш. павіннасці (талокі, згоны, падводы, шарваркі і інш.), плацілі грашовыя падаткі (чынш, запісное, жарнавое, угайнае і інш.), даніну прадуктамі (жыта, авёс, куры, мёд і інш.). У сярэдзіне 18 ст. Ц. с. складалі 70—75%, у сярэдзіне 19 ст.—97% сельскага насельніцтва Беларусі. *П. А. Лойка.*

**ЦЯРО́ХІН** Станіслаў Фёдаравіч (н. 4.10.1929, г. Яраслаўль), беларускі савецкі этнограф. Скончыў БДУ (1965). Працаваў фельчарам Высокаўскай райбальніцы (Брэсцкая вобл., 1957—66), у газ. «Шлях камунізму», на кінастудыі «Беларусьфільм». З 1971 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з 1977 навук. супрацоўнік аддзела этнаграфіі. Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў. Аўтар кніг «Паляўнічтва на Беларусі» (1986), «Мядовы бунт» (1987), «У фокусе канкрэтнага факта. Праўда і мана пра ап'яняльныя напіткі» (1988), сааўтар кнігі «Бортніцтва на Беларусі» (1980) і манаграфіі «Занятак спрадвеку высакародны» (1987, абедзве з У. С. Гурковым). Аўтар раздзелаў у калектыўных зборніках і манаграфіях: «Пытанні этнаграфіі і фалькларыстыкі» (1979), «Помнікі народнай архітэктуры і побыту Беларусі» (1979), «Этнаграфія Беларусі» (1980), «Помнікі этнаграфіі» (1981), «Промыслы і рамёствы Беларусі» (1984), «Грамадскі, сямейны побыт і духоўная культура насельніцтва Палесся» (1987), «Святы і абрады ў Беларускай ССР» (1987) і «Народжаны жыццём. Абрады Савецкай Беларусі» (1988), «Палессе. Матэрыяльная культура» (Кіеў. 1988). *Л. А. Суднік.*



Цёслы.



Цапы.

**ЦЯСЛО́,** ц я с л а, дрэваапрацоўчая прылада. Архаічная форма Ц. вядома з часоў неаліту (завостраны камень з перпендыкулярна пастаўленым да драўлянай ручкі лязом, накшталт маты-

кі). У тыповым варыянце Ц. складаецца з жалезнага стрыжня з авальным завостраным лязом і драўлянай ручкі, замацаванай у праўшыне. Другая разнавіднасць — Ц. ўтульчатае; яно заканчвалася зверху конусападобным раструбам-утулкай, у якой замацоўвалася крукавідная ручка. Адрозніваліся Ц. таксама памерамі, авалам ляза, вуглом нахілу стрыжня да ручкі. Шырока ўжываліся ў даўбёжным рамястве пры вырабе карытападобных форм і ў цяслярстве пры счэсванні буйнагабарытных форм, высяканні падоўжных пазоў на стыках вянцоў, апрацоўцы плах, жалабоў і інш. *В. С. Цітоў.*

**ЦЯСЛЯ́РСКІ ЗНАК,** метка, якой цесляры пазначалі элементы будынка перад яго разборкай. Рабілі Ц. з. на бярвёнах у вуглах хат і гаспадарчых пабудоў, калі трэба было перанесці іх на іншае месца. Звычайна бярвёны ніжняга вянца мецілі адным знакам, напр. зарубкай, другі вянец — дзвюма зарубкамі, трэці — трыма і г. д. Калі будынак ставілі на новым месцы, сцены складалі ў адпаведнасці з Ц. з. У манументальнай архітэктуры (культавыя будынкі, замкі, сядзібныя дамы) Ц. з. сустракаюцца і на канструкцыйных элементах страхі, каркас якой рабілі на зямлі. У складаных стрэхах для кроквенных ферм звычайна карысталіся адной сістэмай знакавання, напр. зарубкамі, а для падоўжных канструкцый (падкроквенных рам) другой — прамавугольнікамі. Пры зборцы гэта палягчала працу і давала магчымасць скараціць тэрмін будаўніцтва. Ц. з. рабілі сякерай (зарубкі) або долатам (прамавугольнікі, квадраты). Яны сустракаюцца ў помніках манументальнай архітэктуры 16 — пач. 20 ст., а ў сялянскіх будынках — пераважна ва Усх. і Цэнтр. Беларусі. *С. А. Сергачоў.*

**Цяслярскія знакі.** На зрубах хат (канец 19 — пачатак 20 ст.): 1 — вёска Дзегцярова Верхнядзвінскага раёна; 2 — вёска Васілеўка Кармянскага раёна; 3 — вёска Сапеліна Глыбоцкага раёна; 4 — вёска Дабрылавічы Бялыніцкага раёна. На канструкцыях даху; 5 — касцёл у вёсцы Чарнаўчыцы Брэсцкага раёна. 16 ст.; 6 — царква ў вёсцы Ляды Смалявіцкага раёна. 18 ст.; 7 — замак у Нясвіжы. 18 ст.; 8 — сядзібны дом у вёсцы Гарнастаевічы Свіслацкага раёна. 18 ст.

**ЦЯСЛЯ́РСТВА,** адзін з відаў дрэваапрацоўчых рамёстваў, звязаны з вырабам і ўстаноўкай драўляных канструкцый і дэталей вялікіх памераў; галіна *народнага дойлідства.* Да Ц. адносяцца работы па ўстаноўцы драўляных падмуркаў, сцен, *падлогі*, перагародак, перакрыццяў (*бэлек*, насцілаў), даху (*крокваў*, абрашоткі), а таксама дапаможных канструкцый (рыштаванняў, памосткаў) і інш. Матэрыял — драўніна пераважна хваёвых парод у выглядзе бярвён, брусоў, дошак, жэрдак, у наш час — таксама фанеры, драўнінна-валакністых пліт і інш. Асноўныя віды апрацоўкі драўніны ў Ц. — рубка, абчэсванне, распілоўка, габляванне, свідраванне, дзяўбанне і інш., асноўныя *дрэваапрацоўчыя інструменты* — сякеры, пілы, долаты, свердлы, рубанкі і інш. У нар. дойлідстве бярвёны пераважна рубілі сякерамі, для насцілаў (цёсу) іх расколвалі ўздоўж на плахі, пры гэтым побач з сякерай шырока выкарыстоўвалі і драўляныя кліны. З 2-й пал. 19 ст. пашырылася піла, з дапамогай якой нарыхтоўвалі дошкі, аполкі, брусы, рабілі мацаванні вуглоў зруба і інш. Бярвенне для зруба абчэсвалі з двух бакоў (у нар. дойлідстве Цэнтр. і Зах. Беларусі), канструкцыі мацавалі ўрубкай, з дапамогай драўляных калкоў, забітых у прасвідраваныя адтуліны і інш. Да сярэдзіны 19 ст. цяслярскімі навыкамі валодаў амаль кожны, у паслярэформенны перыяд Ц. стала шырока развітым промыслам, які часта меў характар *адыходніцтва.* У сучасным нар. дойлідстве апрацоўка драўніны, нарыхтоўка дошак, выраб асноўных канструкцый звычайна ажыццяўляюцца механічным спосабам на калгасных ці саўгасных піларамах, шырока ўжываюцца інструменты з электрапрыводам. У гаспадарках ствараюцца мясцовыя брыгады цесляроў, якія задавальняюць патрэбы насельніцтва ў асноўных цяслярскіх работах. Пераданыя нар. майстрамі-цеслярамі навыкі і прыёмы шырока выкарыстоўваюцца ў сучасным грамадскім і прамысловым будаўніцтве. Гл. таксама *Сталярства.* *Я. М. Сахута.*

**«ЦЯЦЁРКА»,** старажытная танцавальная гульня. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Удзельнікі гульні становяцца ў два рады: хлопцы — у адзін, дзяўчаты — у другі. Першая пара злучала рукі і падымала іх угору, утвараючы «вароты». Потым павярочваліся тварам адзін да аднаго і са злучанымі па-ранейшаму рукамі праходзілі ўздоўж рада дзяўчат (хлопец — з левага боку, дзяўчына — з правага). У канцы рада пара паварочвалася і такім жа чынам праходзіла ўздоўж рада хлопцаў на сваё месца. Пры гэтым дзяўчына з хлопцам прытанцоўвалі (крок нагадваў па шасэ) у такт музыцы і спявалі, як, напрыклад, у Смаргонскім р-не: «Я цяцерку пасу. Ух, я! // На пановым лугу. Ух, я!// А цяцерка пад мост. Ух, я! // Я цяцерку за хвост. Ух, я!...». Затым дзяўчына з пары («цяцерка») раптам кідала хлопца («цецерука») і ўцякала ад яго, а той яе лавіў. Калі ўдавалася злавіць, хлопец і дзяўчына станавіліся апошнімі кожны ў свой рад. Гульня працягвалася, пакуль усе хлопцы і дзяўчаты не выканаюць ролі «цяцеркі» і «цецерука». Гульня зафіксавана экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Смаргонскім р-не. *С. В. Гуткоўская.*



**ЧА́ЙКА,** дашчаная пласкадонная лодка ў басейне Нёмана. Вядомы канструкцыі двух тыпаў: з завостранымі кармой і носам; з адвеснай кармой і завостраным носам.

**ЧА́ЙНІК,** ганчарны выраб; тое, што і *імбрычак.*

**ЧА́КВІН** Ігар Усеваладавіч (н. 20.8. 1954, Мінск), беларускі савецкі

этнограф. Канд. гіст. навук (1981). Скончыў БДУ (1977). З 1981 старшы навуковы супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследуе праблемы этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў эпохі феадалізму, фарміравання і развіцця іх этнічнай самасвядомасці, пытанні этнаніміі Беларусі. Адзін з аўтараў кніг «Праблемы сучаснай антрапалогіі» (1983), «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985), «Палессе: Матэрыяльная культура» (Кіеў, 1988), «Святы і абрады ў Беларускай ССР» (1988).

**ЧАКУХА,** драўляны малаток розных памераў; традыцыйная прылада працы ў дрэваапрацоўчых рамёствах і некаторых іншых відах гаспадарчай дзейнасці. Рэгіянальная назва кука. Ч. сярэдніх памераў складалася з тронка даўжынёй 30—40 см і насаджанай на яго цыліндрычнай, бочкападобнай або прамавугольнай па форме галоўкі. Ужывалася пры апрацоўцы паверхні драўляных прадметаў і выдзёўбванні ў іх дзірак, пазоў долатам, стамескай, пешняй, пры зборцы сталярных і бандарных вырабаў. Ч. вялікіх памераў мела даўжыню тронка 50—80 см. Нярэдка выраблялася суцэльнай з выкарыстаннем прыродных формаў дрэва; на З Беларусі вядома пад назвамі доўбня, пляга. Ужывалася для збівання гліны пры падрыхтоўцы фармовачнай масы ў ганчарнай вытворчасці, для ўшчыльнення і выраўноўвання глінабітнай і земляной падлогі ў жыллі і тока ў гумне, разбівання вялікіх камякоў глебы на ўзараным полі, забівання калоў у зямлю і інш. Прызначалася таксама для лоўлі рыбы стараж. спосабам — глушэннем. Доўбняй глушылі рыбу ў пачатку зімы, калі лёд быў тонкі. Аглушыўшы рыбіну, хутка ўзламвалі лёд і рукамі або падсадкай выкідвалі яе на паверхню.

*С. А. Мілючэнкаў, І. М. Браім.*

**ЧАН,** вялікая ёмістасць з клёпак. Выкарыстоўваўся ў гарбарнай вытворчасці для залення, квашання, дублення скуры, на лесахімічных промыслах — для збірання смалы, дзёгцю, шкіпінару; на вінакурнях і інш. Часам Ч. укопвалі ў зямлю.

**ЧАПЕЦ,** 1) састаўная частка даўняга галаўнога ўбору замужніх жанчын Беларусі — круглая шапачка з фабрычнай тканіны або вязаная з ільняных ці баваўняных нітак. Называлі таксама чэпік. Ч. накладалі на абручык-тканку ці жмут кудзелі і сцягвалі ззаду матузком,налобную частку аздаблялі вышыўкай. Ч. заможных гараджанак 16—17 ст. шылі з парчы, шоўку і інш. каштоўных тканін (налобны пасак багата аздаблялі жэмчугам, металічнымі медальёнамі). Зверху завязвалі *намітку* ці *хустку.* У наш час Ч. носяць некаторыя пажылыя жанчыны на Палессі. 2) Галаўны ўбор дзіцяці, які адзявалі з 2 месяцаў да 2—3 гадоў. Меў форму круглай шапачкі з вушкамі, аздабляўся вышыўкай нашыўкамі фальбаваных стужак, тасёмак, карункамі вакол ілба. 3) У многіх мясцовасцях Беларусі тое, што *каптур.*

*М. Ф. Раманюк.*

**ЧАРНОЎСКАЯ** Марыя, беларуская фалькларыстка і этнограф пачатку 19 ст. Жыла ў Вільні. У в. Губеншчына (цяпер Крычаўскі р-н Магілёўскай вобл.) запісвала бел. песні і абрады. Аўтар арт. «Элементы славянскай міфалогіі, што захаваліся ў звычаях вясковага люду на Белай Русі» [Dziennik Wileński (Віленскі дзённік, 1817. Т. 6); у перакладзе на рускую мову артыкул друкаваўся ў «Вестнике Европы» (1818, ч. 102) і «Северном архиве» (1822, ч. 4)]. Упершыню дала ў арыгінальным вымаўленні бел. нар. песні з нотамі і навуковым каментарыем, апісала купалле, радаўніцу і інш. святы, вобразы нар. міфалогіі, стравы, адзенне, сялянскі побыт беларусаў. Звярнула ўвагу на самабытнасць духоўнай культуры бел. народа.

*Г. А. Кахаwillow*

**ЧАРНОЦКІ** Адам (1784—1825), славяназнавец, пачынальнік беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі і дыялекталогіі; гл. *Даленга-Хадакоўскі* З. Я.

**«ЧАРОТ»,** старадаўні карагодны танец, у якім імітуецца калыханне чароту пад ветрам (называўся таксама «Ачарот»). Музычны памер $^2/_4$. Тэмп жвавы. Дзве тройкі танцораў, узяўшыся пад рукі, становяцца насупраць адзін аднаго, сыходзяцца і разыходзяцца, прытопваючы ў такт. У наступнай фігуры адна тройка наступае, другая адступае і наадварот. Затым кожная з іх паварочваецца вакол сваёй восі ў адзін і той жа або розныя бакі, утвараючы адпаведна малюнак «веера» або «кнігі». Пры гэтым співаюць: «Ачарот, асака, // Усе тавары нашы. // Ждзіце, хлопцы, да вясны, // Дзеўкі будуць вашы». Танец зафіксаваны ГНДЛ бел. танца-



**Чайка.** Вёска Беражна Карэліцкага раёна. 1979.



**Чакуха.**



**Чатырохнітовае ткацтва** (двухуточнае).



**Чаўнакі** з цэўкамі.

вальнай творчасці МІК у Гомельскай вобласці. *Ю. М. Чурко.*

**ЧАРПАК,** 1) пасудзіна, коўш для чэрпання якой-небудзь вадкасці. 2) Выдзеўбаны з дрэва коўш для вычэрпвання вады з судна, лодкі; тое, што і *выліўка*). 3) Конусападобная ёмістасць (металічная, гліняная, берасцяная) для збору *жывіцы* пры падсочцы.

**ЧАСАЛКА,** прыстасаванне для рыхлення і часання воўны; тое, што і *ваўначоска.*

**ЧАТЫРОХНІТО́ВАЕ ТКА́ЦТВА,** адна з найбольш старажытных і распаўсюджаных тэхнік народнага ткацтва. Вядомы 2 яго разнавіднасці: аднаўточнае і двухуточнае. Аднаўточнае ткацтва на 4 нітах (рамізах) дазваляла атрымліваць тканіну палатнянага, рыпсавага, саржавага, паўажурнага і ячэістага перапляцення. Палатняныя і саржавыя даматканкі з даўніх часоў выкарыстоўвалі для вырабу адзення (яны сустракаюцца сярод археалагічных знаходак у могільніках 11—13 ст.), шырока бытавалі яшчэ ў сярэдзіне 20 ст. Рыпсавым натыканнем аздаблялі жаночае адзенне і ручнікі (гладкія, дробназубчастыя і шашачныя палоскі). Ільняныя абрусавыя тканіны паўажурнага перапляцення ткалі ўжо ў канцы 19 ст., але пераважала ў асноўным браная аднаўточная тэхніка (гл. *Бранае ткацтва).* Рамізны спосаб іх вырабу пачаў укараняцца на прадпрыемствах мастацкіх промыслаў з 1980-х г. Двухуточнае Ч. т. было таксама пашырана па ўсёй Беларусі (у паўн. і зах. раёнах такія тканіны называлі «дымкі»). Для іх характэрны рэльефны шашачны арнамент, які ствараецца ніцямі дадатковага ўзорнага ўтку, пракінутага праз усю шырыню тканіны (ён насцілаецца асобнымі ўчасткамі паперамена на правым і левым баку). Разнастайнасць узораў дасягаецца рознымі варыянтамі накідання ніцей асновы ў ніты і парадкам ходу па панажах. З канца 19 ст. гэта тэхніка шырока выкарыстоўваецца ў нар. ткацтве Беларусі для вырабу абрусаў, ручнікоў, посцілак. У наш час усе разнавіднасці Ч. т. атрымалі далейшае развіццё на прадпрыемствах мастацкіх промыслаў БССР. *М. М. Віннікава.*



Жанчыны ў **чапцах.** Вёска Аброва Івацэвіцкага раёна. 1930-я г.



Жанчына ў **чапцы.** Вёска Тышкавічы Іванаўскага раёна. Сярэдзіна 20 ст.

**ЧАЎНО́К,** ткацкая прылада для пракідання ўтку ў працэсе ткання (па знешняму выгляду нагадвае мініяцюрны човен). Вядомы дзве разнавіднасці Ч.— з донцам і полы. У першым выпадку цэўку кладуць на дно, а ўточную нітку прапускаюць праз адтуліну збоку ці ў донцы Ч. (у працэсе ткання прытрымліваюць цэўку вялікім пальцам). У полым Ч. цэўку мацуюць на тонкім металічным стрыжні, таму яго не трэба было прытрымліваць (такі Ч. як больш дасканалы ўжываўся часцей). Акрамя лодкападобных вядомы быў і вілкападобны Ч. — іглiца (дошчачка з дзвюма выемкамі на канцах), які служыў для вырабу падвойных дываноў. *Г. М. Курыловіч.*

**ЧАЧОТ** Ян Антоні (24.6.1796, в. Малюшычы Карэліцкага р-на,— 1.8.1847), беларускі і польскі паэт, этнограф, фалькларыст. Скончыў Навагрудскую павятовую дамініканскую школу (1815). З 1815 у Вільні, пасля няўдалай спробы паступіць ва універсітэт уладкаваўся на службу ў пракуратарыю радзівілаўскіх маёнткаў. Член тайнага студэнцкага т-ва філаматаў у Віленскім ун-це (з 1819). Заклікаў да вывучэння гісторыі роднага краю, вераванняў, звычаяў і вусна-паэтычнай творчасці бел. народа. Удзельнічаў у падрыхтоўцы «Інструкцыі для складання апісання парафіі N у павеце N у губерні N» (1821), адным з раздзелаў якой быў «Норавы, звычаі». За прыналежнасць да т-ва філаматаў у 1824 арыштаваны і зняволены ў віленскую турму, потым сасланы на Урал, адбываў зняволенне ў Кізільскай крэпасці. Пасля вызвалення з-пад нагляду паліцыі з 1826 у Уфе, з 1831 у Цверы. На Беларусь вярнуўся ў 1833, працаваў у Лепелі ў інжынерным упраўленні пры Бярэзінскім канале, у 1841—44 у маёнтку Шчорсы Навагрудскага пав. бібліятэкарам у А. Храптовіча. Пісаць пачаў у філаматкі перыяд. На фальклорна-этнагр. матэрыяле заснаваны многія яго вершы і песні, напісаныя на бел. і польскай мовах. У іх адлюстраваны асаблівасці побыту бел. вёскі, яе сацыяльная структура, гаротнае жыццё сялян, пакуты рэкрутаў. У 1818—19 напісаў каля 10 балад (зберагліся 8), у іх уключыў багаты бел. фальклорна-этнагр. матэрыял. У пач. 1820-х г. падрыхтаваў зборнік «Зосіны песні» (ч. 1—3, рукапіс). У 3-й частцы — «Элегія» — змешчаны матэрыял па нар. творчасці, этнаграфіі беларусаў, некаторыя назіранні Ч., дзе ён высока ацаніў нар. традыцыі. У «Дадатку» да зборніка ўпершыню ў бел. фалькларыстыцы і этнаграфіі вылучыў і ахарактарызаваў тыповыя жанры вуснай нар. творчасці і традыцыйных абрадаў, абгрунтаваў неабходнасць іх збору і вывучэння. Пасля вяртання з ссылкі на радзіму сам і праз сваіх карэспандэнтаў збіраў і запісваў нар. песні, абрады, звычаі, загадкі, прыказкі і інш. Асаблівую ўвагу звяртаў на неабходнасць дэталёвага апісання нар. абрадаў, рытуалаў, ігрышчаў, прадметаў хатняга ўжытку, страў, захавання ў запісах моўных асаблівасцей мясцовых гаворак. Выдаў у Вільні фальклорныя зборнікі з прадмовамі: «Вясковыя песні з-над Нёмана» (1837), «Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны» (1839), «Вясковыя песні з-над Нёмана» (1840), «Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны...» (1844), «Вясковыя песні з-над Нёмана, Дняпра і Днястра» (1845), «Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны, некаторыя прыказкі і ідыёматызмы» (1846). З рукапіснай спадчыны найбольш каштоўны зборнік «Вясковыя песні з-над Дзвіны з аколіц Лепеля і з самага Лепеля...».

*Тв.:* Pieśni ziemianina przez tłumacza piosnek wieśniaczych z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846; Навагрудскі замак: Тво-ры. Мн., 1989.

*Літ.:* Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1968; Яго ж. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Цвірка К. Той курган векавечны...: Сцяжыны вандровак. Мн., 1985; Яго ж. «Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду...»//Полымя. 1984. № 4; Малаш Л. Пачынальнік беларускай фалькларыстыкі//Мастацтва Беларусі. 1986. № 7; Swirko S. Z kręgu filomackiego preromantyzmu. Warszawa, 1972; Його ж. Z Mickiewiczem pod rękę, czyli życie i twórczość Jana Czeczota. Warszawa, 1989.

*А. М. Малаш.*

**ЧАЧЭ́РСКІЯ КУ́ФРЫ,** вырабы майстроў г. Чачэрска і навакольных вёсак у 19—1-й пал. 20 ст. Звычайна куфры былі на ножках, мелі пукатае века, пакладны замок, бакавыя металічныя





Чачэрскія ручнікі. Вёска Бабічы Чачэрскага раёна. 1920-я г.

ручкі. Вядомы 2 варыянты арнаментальнага аздаблення. Першы (найб. папшыраны) вызначаўся чырвоным каларытам і строгім геаметрычным арнаментам. Пярэднюю і бакавыя сценкі, века аздаблялі нескладаным арнаментам рытмічна паўтораных у шахматным парадку кружкоў-разетак, заключаных у сетку ячэек з прамых вертыкальных, гарызантальных і дыяганальных ліній. Часам узоры кампанавалі ў месцах скрыжавання палос (жоўтых, белых). Кружкі-разеткі, кружкі, паўкружкі, прамыя і хвалістыя лініі выконвалі пры дапамозе цыркуля і лінейкі прадрапваннем па сырой алейнай фарбе. Другі варыянт адметны стрыманым вохрыста-жоўтым, белым, шэрым каларытам і сціплым раслінным узорам на пярэдняй сценцы і веку з свабодным размяшчэннем арнаменту. Уздоўж краёў куфра па свежай чырвонай фарбе, на сценах прадрапвалі хвалістыя і прамыя паскі фляндроўкі, якія абрамлялі асноўны малюнак. У цэнтры звычайна малявалі высокія сцяблінкі квітучага лёну, а ў вуглах — тонкія парасткі травы бярозкі. Ніжнія дошкі куфра аздаблялі фігурнай прапілоўкай. У наш час Ч. к. выкарыстоўваюцца пераважна для гаспадарчых мэт. *М. Ф. Раманюк.*

**ЧАЧЭРСКІЯ РУЧНІКІ,** традыцыйныя ручнікі, што выраблялі пераважна ў Чачэрскім р-не. Вядомы з канца 19 ст. Даўжыня 220—350 см, шырыня 30—40 см. Ткалі з лёну, баваўны. Аснову арнаментальнай кампазіцыі на канцах ручніка складаюць гладкія палосы палатнянага або рыпсавага пераплячэння, знізу і ўверсе вузкія (1—2 см), пасярэдзіне шырэйшыя (3—7 см). Паміж палосамі размяшчаюцца трохкутнікі, ромбы, шматпялёсткавыя разеткі і інш. геаметрычныя ўзоры, вытканыя ў тэхніцы бранага ткацтва (пераважае чырвоны колер, па краях арнаментаваных палос уводзяцца чорныя ніткі). На канцах аздаблялі вязанымі кручком белымі або бела-чырвонымі карункамі, махрамі. *В. І. Селівончык.*

**ЧАШКА,** ганчарны або выдзеўбаны выраб; гліняная (драўляная) глыбокая пасудзіна для ежы накшталт *міскі* з акруглым, у выглядзе паўшар'я, сілуэтам. Аб'ёмам звычайна да 1 л. Гліняныя Ч., якія выраблялі паліванымі, бытавалі пераважна на Пн і ў Цэнтр. Беларусі.

**ЧА́ШНІЦКАЯ КЕРА́МІКА,** традыцыйныя ганчарныя вырабы майстроў з г. Чашнікі Віцебскай вобл. Промысел вядомы здаўна, у мінулым асабліва славіўся чашкамі (з гэтым звязваюць назву горада, які ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 16 ст.). У канцы 19 — пач. 20 ст. працавала каля 25 ганчароў. Яны выраблялі гаспадарчую і дэкаратыўную кераміку — гаршкі, латушкі, бабачнікі, макатры, збанкі, гарлачы, слоікі, спарышы-двайнічкі, міскі, паўмiскі, чайнікі, кубкі, вазоны, букетнікі, цацкі і інш., а таксама менш пашыраную — чашкі, пасачнікі, рукамыйнікі. Посуду ўласцівы плаўныя абрысы і выразная прапрацоўка асобных дэталей, зграбны сілуэт. Фармавалі ў тэхніцы выцягвання на нажным ганчарным крузе; фармовачная маса — з адной гліны поўнага гатунку, а для некаторых відаў пячнога посуду (гаршкоў і латушак) — з дадаткамі жарствы. Кераміку пакрывалі празрыстай свінцовай палівай, якая пасля абпальвання заставалася бясколернай, захоўваючы натуральны чырвоны колер гліны. Зрэдку выраблялі таксама чорназадымленую і гартаваную кераміку, гал. чынам для гатавання ежы.

Дэкор стрыманы, нярэдка адсутнічае. Для аздаблення ўжывалі традыцыйны лінейна-хвалісты арнамент, які прачэрчвалі драўляным ножыкам па сырой паверхні посуду ў выглядзе контррэльефных палосак або наносілі белую ангобную размалёўку. У 1950—60-я г. вырабам Ч. к. займаліся некалькі ганчароў. У наш час промысел не існуе. Калекцыя Ч. к. зберагаецца ў Музеі стараж.-бел. культуры ІМЭФ АН БССР. *С. А. Мілючэнкаў.*



Чашніцкая кераміка.

**ЧВЭРЦЬ,** даўняя мера сыпкіх рэчываў і вадкасцей на Беларусі. Пастановай сейма 1766 зацверджана як адна з асноўных адзінак вымярэння Вял. кн. Літоўскага замест ранейшага *карца.* Раўнялася 101,62 л.

**«ЧМЕЛЬ»,** старажытны традыцыйны танец. Называўся таксама «Шамель». Выконваўся сола. Спачатку мужчына звычайна выконваў харэаграфічную імправізацыю пад музыку, а потым апускаўся на зямлю і пачынаў павольна паварочвацца вакол сваёй восі, кранаючы зямлю папераменна далонямі, локцямі, спіной, каленямі. Танец зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Гомельскай вобл. Падобны танец пад назвай «Біць шамеля» апісаны польскім даследчыкам К. Машынскім.

**«ЧО́БАТЫ»**, старадаўні традыцыйны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп ад умеранага да хуткага. Выконваўся і пад музыку, і пад прыпеўкі, часам адначасова пад музыку і прыпеўкі. Кожнай мясцовасці ўласцівы свой варыянт танца. Часам у адным і тым жа раёне (Мазырскім, Нараўлянскім і інш.) існуе адначасова некалькі тыпаў танца — ад сольных непрымеркаваных скокаў да абрадавага танца. Сутнасць аднаго з варыянтаў — апавяданне пра майстра-шаўца на ўсе рукі. «Шавец» імітуе працэсы пашыву чобатаў, потым выконвае імправізаваны танец: прытупвае то адной, то другой нагой, робіць саскокі на дзвюх нагах у павароце, а потым стоячы на месцы. Бегам, а то і павольна рухаецца туды-сюды па крузе. Часта танец выконваецца на месцы. Тады ён больш эмацыянальны, рухі больш складаныя: прысядкі, падкіданне ног угору, з адначасовым хлопаннем па халяве, у далоні і г. д. З падобным сюжэтам у рэгіёне Цэнтр. Палесся існуе танец «Шавец» («Шаўцы»).

Варыянт танца «Ч.», што пашыраны на Прыпяцкім Палессі,— частка традыцыйнага вясельнага абраду. Выконваўся бацькамі маладой на вяселлі, пасля таго, як зяць прыпадносіў цешчы і цесцю падарунак (калісьці абутак). Пад воклічы гасцей бацькі пераабуваліся, пасля гэтага іх саджалі на ўслон, паднімалі ўверх і абносілі вакол сталоў. Бацькі ў гэты час махалі нагамі ўверх-уніз, стукалі нагой аб нагу, пляскалі ў далоні і інш. Завяршыўшы круг, услон ставілі на падлогу, а бацькі працягвалі імправізаваць свой танец. У час яго выканання госці спявалі прыпеўкі. Часам спявала іх і цешча.

У Лельчыцкім, Жыткавіцкім і інш. р-нах «Ч.» танцаваў адзін хлопец. Танец у гэтым варыянце — сольныя імправізаваныя скокі, у якіх выканаўца дэманстраваў спрыт і фантазію. У танцы сустракаліся асобныя каленцы з першага варыянта. Калі-нікалі паспаборнічаць з хлопцамі магла і дзяўчына або маладзіца. Іх танец насіў у асноўным гумарыстычны характар. Сцэнічны варыянт танца «Ч.» ўваходзіць у рэпертуар некаторых прафесійных і самадзейных калектываў рэспублікі.

*М. А. Козенка.*

**ЧО́ВЕН**, лодка-аднадрэўка, выдзеўбаная з дуба, сасны, асіны, ліпы. Быў пашыраным сродкам воднага транспарту, служыў для мясцовых перавозак грузаў і людзей, рыбнай лоўлі, палявання. Упамінаецца ў «Рускай праўдзе» (1054). У 19 ст. пачаў выцясняцца дашчанымі лодкамі, выйшаў з ужытку ў 20 ст. Традыцыйныя Ч. мелі рэгіянальныя адрозненні. У басейне Нёмана бытавалі Ч. карытападобнай формы, у інш. мясцовасцях — з разгорнутымі бакамі, завостранымі або злёгку закругленымі насамі і кармой, зрэдку — адвеснай кармой і завостраным носам. Памеры Ч. (ад 2,5 да 10 м даўжыні і 1—1,5 м шырыні) залежалі ад прызначэння і шырыні ракі ці канала. Кіравалі Ч. адналопасным вяслом без уключын. Характэрная асаблівасць палескага вясла — папярэчына на ручцы (мыліца, кавылька).

*Н. І. Бураўская.*



**Човен** на Прыпяці. Жыткавіцкі раён.



**Човен** на Бернітанскім возеры. Вёска Бершты Шчучынскага раёна.

**ЧОРНАЗАДЫ́МЛЕНАЯ КЕРА́МІКА**, ганчарныя вырабы чорнага колеру (часам з сінявата-чорным адценнем), абпальванне якіх завяршалася задымліваннем — тэрмічнай апрацоўкай без доступу паветра з выкарыстаннем смалістага паліва. У выніку ў горне або печы стваралася газавае асяроддзе з высокім утрыманнем вугляроду, які ўзаемадзейнічаў з вокісламі жалеза ў гліне і афарбоўваў вырабы ў цёмны колер. Адначасова паляпшалася і іх якасць: змяншалася порыстасць і павялічвалася трываласць. На Беларусі Ч. к. вядома з ранняга жалезнага веку, але яе сучасныя традыцыі ўзыходзяць толькі да стараж.-рускага часу. Шырокае распаўсюджванне яна атрымала ў перыяд позняга феадалізму (у дакументах 16 ст. чорназадымленыя гаршкі прыгадваюцца пад назвай «дымчы»). У 2-й пал. 19— пач. 20 ст. вытворчасць Ч. к. была пашырана амаль па ўсёй Беларусі (у некаторых ганчарных цэнтрах яе выраблялі спецыяльна для яўрэйскага насельніцтва, якое выкарыстоўвала чорназадымлены посуд для гатавання абрадавай ежы). Разнавіднасцю апрацоўкі Ч. к. з'яўляецца глянцаванне — нанясенне дэкору на падсушаны перад абпальваннем посуд шляхам націрання гладкім крэменем, косцю і інш., у выніку якога атрымлівалі чорнаглянцаваную кераміку. Глянцаванне ўшчыльняла чарапок, на-



**Чорназадымленая кераміка.**

давала вырабам дэкаратыўна-мастацкія якасці: бліскучы дэкор у выглядзе вертыкальных прамых і хвалістых палос, косай сеткі, хваёвых галінак эфектна вылучаўся на чорным матавым фоне (часам глянцавалася ўся паверхня вырабаў). Такая кераміка была пашырана пераважна ў паўд.-зах. р-нах Беларусі (пружанская, пагост-загародская, поразаўская, мірская керамікі; гл. адпаведныя арт.). Калекцыі Ч. к. зберагаюцца ў Дзярж. музеі БССР, Музеі стараж.-бел. культуры АН БССР.

*С. А. Мілючэнкаў, Я. М. Сахута.*

**ЧО́РНАЯ РУСЬ**, назва, якая ўжывалася ў некаторых летапісах, хроніках, даследаваннях і на геаграфічных картах 14—19 ст. у якасці вызначэння частак усходне-славянскіх, у т. л. і беларускіх, зямель (параўн. *Белая Русь*, Чырвоная Русь). Першыя вядомыя ўпамінанні Ч. Р. адносяцца да прускіх і лівонскіх хронік 14—15 ст., дзе яна лакалізавалася на У ад Прусіі, Літвы і Лівоніі — у раёнах Пскоўшчыны, Наўгародчыны, Гродзеншчыны, Навагрудчыны, Браслаўшчыны. У 15—16 ст. назва Ч. Р. («Rossia negra», «Russia nigra») пазначана на некаторых геагр. картах у раёнах Сярэдняга Паволжа (фра Маура, 1459; Даменіко Зоры, 1529), Пскоўшчыны (Аўлас Магнус, 1539). У польскага гісторыка 16 ст. М. Стрыйкоўскага назва Ч. Р. то атаясамлівалася з панцам «Літва Павілейская» і лакалізавалася паміж Віліяй і Нёманам, то адносілася да ўсяго Навагародскага ваяводства (ад Навагрудка да Мазыра і Рэчыцы). У абодвух выпадках жыхарамі Ч. Р. ён лічыў *літвінаў* і *русінаў*. З Навагрудчынай звязваў пераважнае ўжыванне ў 16 ст. назвы Ч. Р. і польскі гісторык А. Гваньіні, які ўжываў таксама этнонім «чорнарусы» для вызначэння яе насельніцтва. Польскі даследчык Г. Карпінскі адзначаў, што назва Ч. Р. пашырана ў Навагрудскім і Мінскім ваяводствах, а рускі гісторык В. М. Тацішчаў атаясамліваў яе з Палессем і лакалізаваў у межах ад Навагрудчыны да Мазыршчыны на чале са «стольным градам» Навагрудкам. Сумяшчэнне паняццяў «Ч. Р.», «Чорнарусія» і «Палессе» («Поліссе») сустракаецца і ў творах ураджэнца Украіны П. Бялецкага-Насенкі, які складаў слоўнік геагр. назваў Усх. Еўропы і інш. краін свету ў канцы 18— пач. 19 ст. У даследаваннях рускіх, бел. і інш. аўтараў 2-й пал. 19 ст. І. Первольфа, П. Барсава, М. Лябёдкіна, І. Сталпянскага, А. Карава назвы Ч. Р. і «чорнарусы» сустракаюцца ў дачыненні да раёнаў Навагрудка, Гродна, Ваўкавыска, Слоніма і інш., аднак пераважна ў рэтраспектыўным аспекце. Этнагр. і гісторыка-геагр. даследаванні пазнейшага часу не фіксуюць ужывання назвы Ч. Р. і адпаведнага этноніма ў насельніцтва зах. ці паўдн. (напрыпяцкіх) раёнаў Беларусі.

Першапачатковая лакалізацыя, ступень ужывання і этымалогія назвы Ч. Р. канчаткова не высветлены. Адносна ўжывання назвы Ч. Р. на зах. землях Беларусі існуюць розныя гіпотэзы, якія датычаць пераважна этымалогіі вызначэння «чорная»: палітычна залежная ад суседніх краін — Літвы, Полацкага княства, Польшчы (М. Каяловіч); нехрышчоная, проціпастаўленая Белай Русі — хрышчонай (І. Юхо); этнічна змешаная, дзе жылі ўсх. славяне, усх. і зах. балты (Первольф); ад пераваги чорнага колеру ў адзенні і ў інш. этнагр. атрыбутыцы насельніцтва (Я. Карскі); ад цёмнапігментавага (цёмнавалосага, цемнавокага) антрапалагічнага тыпу насельніцтва (М. Янчук); ад запазычанай традыцыі ўсх. і паўд. народаў называць каляровымі вызначэннямі часткі зямель — у залежнасці ад геагр. арыентацыі: чорная — заходняя ці паўночная (В. Топараў, А. Трубачоў); сemантычнае проціпастаўленне па *бінарнай апазіцыі* — чорная і белая ці чырвоная (В. Іваноў).

*І. У. Чаквін.*

**ЧОРТ**, вобраз у народнай *дэманалогіі;* у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў увасабляў адмоўныя, варожыя чалавеку сілы. Ч. ўяўлялі істотай, укрытай поўсцю, з рожкамі, казлінай барodкай, хвастом і капытамі. Лічылі, што ён мог перакінуцца ў чалавека (з абліччам паніча), у ката, куль саломы і інш. Паводле нар. павер'яў Ч. вельмі рухомы, звычайна жыў у балоце («Абы балота, то і чорт будзе»), шкодзіў чалавеку ў лесе, на расстайных дарогах, лічыўся віноўнікам сварак у сям'і і г. д. У 19 — пач. 20 ст. вобраз Ч. паступова зліўся з адпаведным міфалагічным вобразам хрысціянскай рэлігіі — д'яблам. Ч. сустракаецца таксама ў многіх фальклорных творах — легендах, паданнях, прыказках, прымаўках, быліччках, легендарных і чарадзейных казках.

*М. Ф. Піліпенка.*

**ЧУБІ́НСКІ** Павел Платонавіч [15(27).1.1839, г. Барыспаль Кіеўскай вобл. — 14(26).1.1884], украінскі і рускі этнограф, фалькларыст. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1861). За народніцкую прапаганду сярод сялян на Кіеўшчыне сасланы ў Архангельскую губ. (1862—69). У 1869—70 узначальваў этнагр. экспедыцыі на Украіну, Беларусь (аб'ездзіў Мазырскі, Пінскі, Кобрынскі, Слонімскі, Брэсцкі пав.) і ў Малдавію. У 1873—76 кіраваў Паўд.-Зах. аддзелам Рус. геагр. т-ва. У 1876—79 у Пецярбургу. Аўтар «Нарыса народных юрыдычных звычаяў і паняццяў у Маларосіі» (1869). У «Працах этнаграфічна-статыстычнай экспедыцыі ў Заходне-Рускі край...» (т. 1—7, 1872—79) фальклорна-этнагр. матэрыялы з Мінскай і Гродзенскай губ.: каля 400 песень, 25 казак, 5 апісанняў вяселляў.

**ЧУМАКІ́**, сацыяльная група насельніцтва, пераважна збяднелыя сяляне, якія наймаліся вазіць соль, салёную і сушаную рыбу з Крыма, Дона, а таксама з Прусіі і Закарпацця. Туды везлі хлеб, сала, скуры. Чумацкі промысел існаваў на Украіне і часткова на Беларусі ў 16—1-й пал. 19 ст. (са з'яўленнем чыгунак паступова знік). Паходжанне назвы Ч. звязана, магчыма, з назвай «чумачыць». Возчыкі «чумачылі» (прасмольвалі) сваю адзежу перад ад'ездам у дарогу, каб засцерагчыся ад чумы, эпідэміі якой часта ўспыхвалі на Пд краіны. Паходжанне звязваюць і са старaж. «чум» — вялікая скураная ці драўляная пасудзіна (коўш, бурдзюк, мех), у якой перавозілі тавары. Такое паходжанне больш верагоднае, бо ў гіст. дакументах 16—18 ст. хваробу называлі не чумой, а «морам», «мораваю язваю». Транспартным сродкам для Ч. служылі вазы, запрэжаныя валамі; ездзілі абозамі. Соль бралі за пэўную пошліну — мыт. Паступова ў перавозках Ч. значнае месца занялі с.-г. прадукты, розныя тавары, попыт на якія павялічыўся з развіццём таварна-грашовых адносін. Жыццё Ч., іх нялёгкая праца, спецыфічны побыт у час працяглага адрыву ад дому, пратэст супраць эксплуатацыі і сацыяльнай няроўнасці, узаемаадносіны з сям'ёй адлюстраваны ў чумацкіх песнях.

*Г. А. Пятроўская.*

**ЧУЧАЛА**, фігура прамысловай птушкі для прывабліваня дзічыны. Называлася таксама балван. Рабілі профільныя ці аб'ёмныя ў натуральную велічыню і размалёўку з падручных матэрыялаў: разнаколернай тканіны, паклі, саломы, дрэва. Профілі выразалі з дошак, фанеры. З Ч. палявалі на балотную і баравую птушку, пераважна на качараў і цецерукоў. Сучасныя Ч. фабрычнай вытворчасці вырабляюць з літай гумы і эластычнай плеўкі. Вызначаюцца добрай імітацыяй і партатыўнасцю, асабліва надзіманыя.

*С. Ф. Цярохін.*

**«ЧЫЖЫК»**, гарадскі бытавы танец. Выконваўся ў суправаджэнні прыпеўкі «Чыжык, чыжык, дзе ты быў». Танцоры станавіліся ў позу, тыповую для заходнееўрапейскіх бальных танцаў: выканаўцы павернуты тварам адзін да аднаго, кавалер абдымаў правай рукой стан дзяўчыны, левай трымаў кісць яе правай рукі, левая яе рука ляжала на плячы ў партнёра. Танцоры рабілі 4 факстротныя крокі наперад, затым 4 крокі назад і некалькі паваротаў у пары па крузе ў полька-вальсе. «Ч.» зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Дубровенскім, Лепельскім р-нах. У Лёзненскім р-не зафіксаваны інш. варыянт танца. Усе выканаўцы станавіліся кругам, а пара саліcтаў выходзіла ў цэнтр. Юнаксаліст перамяшчаўся па крузе і выконваў пры гэтым шэн з кожнай дзяўчынай у крузе, а тая павaрочвалася ў яго пад рукой. Калі юнак праходзіў поўны круг і вяртаўся на месца, дзяўчына-салістка таксама пачынала перамяшчацца па крузе (але ў супрацьлеглы бок), выконвала шэн з юнакамі і паварочвалася ў іх пад рукой. Пасля гэтага салісты станавіліся ў агульны круг, а іх месца займала інш. пара. Танец працягваўся, пакуль усе выканаўцы не пабудуць салістамі.

*А. Л. Варламаў.*

**«ЧЫЖЫК»**, дзіцячая гульня. Гулялі двое. Жараб'ёўку рабілі пры дапамозе

кійка (хто браўся за канец кійка апошнім, той і быў «чыжыкам»). Для гульні бралі 2 кійкі — кароткі даўжынёй 20—25 см («чыжык») і ўдвая даўжэйшы. «Чыжык» клалі адным канцом на зямлю, а сярэдзінай на апору (каменьчык або драўляны брусок) у спецыяльна абведзеным для яго месцы (прыблізна адзін квадратны метр), якое называлася «пеклам». Пасля дамоўленасці пра лік гульні (10, 20 ці болей) гулец біў кійком па «чыжыку» так, каб ён падскочыў уверх і падбіваў яго ўжо ў паветры. Колькі разоў удавалася падбіць «чыжык», столькі ачкоў і залічвалася. Калі ж «чыжык» падаў у «пекла», тады «гарэлі» (прападалі) усе ачкі. Калі гулец занадта моцна біў па «чыжыку» — «чыжык» ляцеў на значную адлегласць, адкуль другі гулец кідаў яго, стараючыся патрапіць у «пекла». Тады гульцы мяняліся ролямі. Калі ён не трапляў у «пекла», другі гулец стараўся падбіць лежачага «чыжыка» ўверх і затым адбіць яго як мага далей. Той, хто набіраў адпаведную колькасць ачкоў, меў права працягваць гульню, а той, хто прайграваў, павінен быў спець або станцаваць (у адпаведнасці з папярэдняй дамоўленасцю).
*В. Дз. Ліцвінка.*

**ЧЫЛКА,** дзявочы галаўны убор у святочным ці вясельным касцюме ў Зах. Палессі (Брэсцкі, Маларыцкі р-ны) канца 19—пач. 20 ст. Выраблялі з лубу, кардону, накрухмаленага палатна ў выглядзе кароны-абручыка выш. 8—10 см з дэкаратыўным зубчыкам над ілбом. Аздаблялі разнаколернымі стужкамі і тасёмкамі, выкладзенымі паралельна лініі нізу, нашыўкамі бісеру, паскаў тканіны. Адзявалі паверх валасоў, расчасаных на прабор і заплеценых у касу. Вясельныя Ч. ўпрыгожвалі кветкамі. Пры благаслаўленні на шлюб маці маладой закладвала за Ч. хлеб, соль, цукар, каб маладая сям'я жыла шчаслівая і ў дастатку.
*М. Ф. Раманюк.*

**ЧЫНШАВЫЯ СЯЛЯ́НЕ,** а с а д н ы я с я л я н е, феадальна-залежныя сяляне, галоўнай формай зямельнай рэнты якіх была грашовая; асноўная павіннасць — грашовы чынш. Называліся таксама кунічнікі. Паяўленне катэгорыі Ч. с. абумоўлена развіццём у канцы 15—16 ст. таварна-грашовых адносін. Выконвалі і інш. павіннасці (талокі, згоны, дзякло, падводы, часам і 1—2 дні паншчыны ў тыдзень з валокі). Найбольшая колькасць Ч. с. была ў 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. З развіццём фальваркова-паншчыннай гаспадаркі колькасць Ч. с. памяншалася; памеры чыншу павялічыліся. У 1-й пал. 19 ст. яны называліся аброчнымі, колькасць іх была нязначная (3%). *П. А. Лойка.*

**ЧЫСТЫ ЧАЦВЕ́Р,** апошні чацвер перад *вялікаднем* (часам называюць вялікі чацвер). У гэты дзень абавязкова чысцілі і прыбіралі ў хаце, мылі жывёлу, асабліва коней, каб былі дужымі, мыліся самі ў лазні. З Ч. ч. было звязана шмат разнастайных павер'яў (хто асмеліцца выкупацца ў палонцы ці памыецца на досвітку ў лазні, той не будзе хварэць увесь год; каровам, каб былі малочнымі, абмывалі вымя вадой, зачэрпнутай на досвітку з месца зліцця двух ручаёў). На Ч. ч. звычайна не спыняліся работы на агародзе і ў полі, а пасеянае ў гэты дзень збожжа павінна было быць чыстым. Напярэдадні Ч. ч. рабілі прагнозы на будучы ўраджай: выносілі на ноч хлеб і соль, і калі на раніцу яны замярзалі, гэта прадказвала, што яравыя будуць пашкоджаны марозамі.
*У. А. Васілевіч.*

**ЧЭ́ЛЯДЗЬ,** 1) слугі, работнікі, якія жылі пры дварах феадалаў у Вялікім княстве Літоўскім; найбольш бяспраўная, залежная частка насельніцтва. Сваім становішчам блізкія да халопаў. Знаходзіліся ў поўнай уласнасці феадалаў, былі прадметам куплі-продажу і судовых іскаў. Асноўныя крыніцы папаўнення Ч.: спадчына, палон, крымінальныя злачынствы, шлюбы вольных з нявольніцамі і наадварот. Выконвалі с.-г., прамысловыя, рамесныя і інш. работы. Спачатку называлася Ч. нявольная; паводле Статута 1588 гэты тэрмін забаронены. Ч. стала называцца дворнаю, атчызнаю, купленаю або паланёнаю. У 16 ст., асабліва ў час *валочнай памеры,* частка Ч. атрымала невялікія зямельныя надзелы і ператварылася ў *агароднікаў* і прыгонных сялян. 2) У 18—19 ст. дваровыя людзі памешчыкаў. *М. Ф. Спірыдонаў.*



**ШАБЕ́ТА,** невялікая скураная сумачка-кашалёк, у якой насілі крэсіва, сцізорык, люльку, тытунь, медзякі і інш. неабходную дробязь. Называлі таксама каліта, кайсцерка. Тыповая дэталь традыцыйнага касцюма беларуса сярэдняга і пажылога ўзросту ў 18—19 ст. Насілі з правага боку, мацавалі да пояса або да раменьчыка, перакінутага цераз плячо. Мела форму прамавугольніка 9—16×8—12 см з клапам на ўсю шырыню (на Падняпроўі вядомы Ш. аб'ёмныя, авальнай формы). Некаторыя былі з 2 клапамі, некалькімі ўнутранымі адсекамі, фігурным верхам, багата аздобленым арнаментам з рамбічнай сеткі, крыжыкаў, хвалістых ліній, кружкоў, утвораных цісненнем і прасечкай. Ш. ўпрыгожвалі і дэкаратыўным штапам, аплікацыяй, наразнымі скуранымі мохрыкамі, вышыўкай, пляценнем з дробных раменьчыкаў, набіўкамі





Мужчына ў традыцыйным касцюме з **шабетай.** Вёска Глінка Столінскага раёна. Пачатак 20 ст.

**Шабета.** Цісненне на скуры. Магілёўшчына. Сярэдзіна 19 ст.

латунных цвічкоў з бліщчастымі плешкамі. Найбольш пашырана на Палессі.
*М. Ф. Раманюк.*

**ША́БЛЯ,** вясельны атрыбут, які служыў падстаўкай для свечак. Характэрны ў асноўным для вяселля на Пд Беларусі. Рабілі Ш. з доўгага кавалка бляхі ці дрэва або выкарыстоўвалі старую сапраўдную Ш. Рыхтавалі яе да вяселля сёстры маладога (радзей маладой) разам з яго братамі ў *суборную суботу* або ў час пячэння *караваю*: утыкалі ў разрэзаны акраец хлеба, які ўпрыгожвалі кветкамі (букецікамі, вяночкамі), каласкамі збажыны, зелянінай са свечкай (або дзвюма) пасярэдзіне. Затым Ш. абгортвалі вышытым ручніком (часам хусткай), прывязаным ніжэй хлеба або вакол кветак. Ш. была галоўным атрыбутам *сваціхі*. Пасля заканчэння суборнай суботы сваццяя маладога забірала Ш. ў яго хату. Свечкі на Ш. запальваліся ў галоўныя моманты вяселля: пры *звядзенні* маладых, пад ле караваю, абдорванні маладых і г. д. У некаторых мясцовасцях сустракаўся мадыфікаваны варыянт Ш., якая рабілася з букецікa кветак і зеляніны і ўваткнутых у сярэдзіну іх адной ці дзвюх свечак або з адной ці дзвюх свечак, звязаных знізу ручніком.

**ШАВЕ́ЦТВА,** рамяство па вырабу скуранога абутку. На Беларусі бытавала са стараж. часоў, пра што сведчаць археалагічныя знаходкі і пісьмовыя крыніцы перыяду Кіеўскай Русі. Звесткі пра выраб скуры (усміе) і шаўцоў (усмошвецаў) ёсць у летапісах 10 ст. У Дзярж. музеі БССР зберагаюцца шавецкія драўляныя капылы 9—10 ст. Пры раскопках стараж. Полацка ў пластах 11—16 ст. знойдзены боты, паўбоцікі, чаравікі. Боты, чаравікі былі паўсядзённым абуткам пануючых саслоўяў, заможных гараджан, рамеснікаў. Шаўцы — пашыраная прафесія ў гарадах, з 2-й пал. 16 ст. яны ўваходзілі ў рамесныя цэхі. У 1770-я г. 40 % цэхавых рамеснікаў Магілёва займаліся апрацоўкай скур і пашывам вырабаў з іх. Прыгонныя майстры задавальнялі патрэбы ўладальнікаў маёнткаў. Напрыклад, у Рэчыцкім пав. ў 1798 было 12 шаўцоў, якія шылі абутак для сваіх гаспадароў. Некаторыя памешчыкі пасылалі прыгонных юнакоў у Віцебск, Магілёў, Тулу, Маскву, Пецярбург для навучання шавецкаму рамяству. Магілёў, Полацк, Пінск, Мінск, Брэст, Кобрын, Слуцк, мястэчкі Смаргонь, Брагін, Давыд-Гарадок былі традыцыйнымі цэнтрамі Ш. У 19 ст. шырока вядомы магілёўскія, смаргонскія, пінскія, брагінскія, давыд-гарадоцкія майстры. У 2-й пал. 19 ст. ўзрос попыт на боты і ў сялянскім асяроддзі, хоць асноўным абуткам у вёсцы асталіся лапці. Боты былі святочным абуткам заможных сялян; маладыя жанчыны насілі чаравікі, шнуроўкі. У сувязі з гэтым Ш. пашыралася і ў вёсцы, асабліва на Гродзеншчыне. Паводле звестак П. В. Бабpоўскага, у 1860 у Гродзенскай губ. працавала 1385 шаўцоў у вёсках і 1103 у гарадах; у Магілёўскай губ. (1880-я г.) — 1082 шаўцы-саматужнікі, у Віцебскай губ. (1900) — 1050. У многіх вёсках Гродзенскай губ. Ш. было прафесійным рамяством сялян. У 1870-я г. ў многіх мясцовасцях назіралася аддзяленне сельскага Ш. ад земляробства (напр., у Брэсцкім і Ваўкавыскім пав.). У 1880-я г. ў Магілёўскай губ. саматужнае Ш. існавала ў 352 населеных пунктах, у т. л. ў 40 мястэчках і 5 гарадах. На пач. 20 ст. Ш. бытавала ва ўсіх паветах Магілёўскай губ. (у Рагачоўскім пав. налічвалася каля 200 шаўцоў).

Гарадскія і местачковыя шаўцы найчасцей мелі спецыяльныя памяшканні з вялікім наборам інструментаў; сельскія рамеснікі працавалі ў жылых гаспадарчых памяшканнях. У буйных майстэрнях працаваў сам гаспадар з 2—3 наёмнымі работнікамі (падмайстрамі) і некалькімі вучнямі — хлапчукамі 10—15 гадоў, якія ў час навучання 3 гады працавалі бясплатна. У традыцыйных цэнтрах Ш. да пач. 20 ст. захоўваўся прафесійны падзел працы залежна ад тыпу і прызначэння абутку. Напрыклад, у Магілёве і Рагачове адны шаўцы шылі боты, другія — чаравікі (чаравічнікі), прычым кожная з гэтых прафесій падзялялася на два разрады — шаўцоў простага («змазнага») і шаўцоў «панскага» (шылі боты і чаравікі з тонкай высакаякаснай скуры) абутку. Тэхналагічныя прыёмы пашыву, тыпалогія абутку і яго крой зведалі на працягу стагоддзяў істотныя змены. Але інструменты, прыстасаванні і матэрыялы мала змяняліся, большасць іх дайшла са стараж. часоў да 20 ст. Традыцыйнымі прыладамі працы, некаторыя мадэрнізаванымі (драўляныя ці металічныя капылы, правідлы, шавецкі востраканцовы нож, малаток, шылы прамое і выгнутае, рашпіль, пласкагубцы, абцугі, напёрстак, іголкі) карыстаюцца і ў наш час майстры ў шавецкіх майстэрнях і Дамах быту. Рацыянальныя элементы традыцыйнага нар. Ш. выкарыстоўваюцца таксама на абутковых фабрыках у Мінску, Гродне, Баранавічах, Віцебску і інш.
*Н. І. Буракоўская.*



**Шалёўка** дома ў вёсцы Чаркасы Дзяржынскага раёна.



Віды **шалёўкі.**

**ША́ДРЫК,** загартаваны драўняны попел. Ужываўся, акрамя *паташу*, на палатняных мануфактурах для адбельвання пражы і палатна. Выраблялі яго з попелу пераважна лісцевых парод дрэў. Дровы складвалі ў лесе ў кучу і палілі некалькі дзён. Атрыманы попел змешвалі са снегам. Гэту цестападобную масу гартавалі, для чаго на зямлю шчыльна ўкладвалі рад бярвення, зверху насцілалі крыж-накрыж 14—16 радоў тонкіх асінавых дошак даўжынёй да 1 сажня. Паміж кожным радам клалі слой шадрыкавага цеста. Складзеную кучу падпальвалі з усіх бакоў, вогнішча гарэла 12 гадзін, і такім чынам попел гартаваўся.
*Н. І. Буракоўская.*

**ШАЛА́Ш,** часовая пабудова на лясных работах, сенакосе, рыбнай лоўлі, у садзе, на плыце і інш. для адпачынку, часовага захавання прадуктаў харчавання і адзежы; тое, што і *будка.*

**ШАЛЁЎКА,** абшыўка дошкамі (зрэдку дранiцай) сцен, франтонаў і інш. элементаў драўляных будынкаў. Ахоўвае канструкцыі ад атмасферных ападкаў, павышае цеплатэхнічныя якасці сцен. Выконвае і дэкаратыўныя функцыі. Вядома з 17 ст. (сядзібна-палацавыя і культавыя будынкі). У 19 ст. Ш.— характэрны элемент архітэктуры гарадскога і мястэчковага жылля. Ш., якая ахоўвала вуглы зруба, вядома з 19 ст. ў вясковых хатах Паазер'я і Падняпроў'я. У будаўніцтве Беларусі Ш. пашыралася ў 1950—60 г., што звязана з уздымам дабрабыту насельніцтва, павышэннем тэхнічнага ўзроўню вясковага будаўніцтва. Тыпы Ш.: вертыкальная, вертыкальная з нашчыльнікамі, гарызантальная, у елачку, ромбападобная, камбінаваная. Дэкаратыўная выразнасць Ш. ўзмацняецца разьбянымі паяскамі і карнізамі. Дошкі, якімі закрываюць вуглы зруба, асабліва вуглы без астатку, упрыгожваюцца накладнымі элементамі або прапілоўкай. Як своеасаблівасць нар. дойлідства Беларусі вылучаецца Ш. франтонаў Зах. і Цэнтр. Палесся, дзе выкарыстоўваюцца салярныя матывы. На франтонах хат Панямоння гэтыя матывы спалучаюцца з раслінным арнаментам. Ш. ў манументальнай архітэктуры звычайна рабілася пад уплывам дэкору мураванага дойлідства. У наш час Ш. робяць з габляваных дошак, якія звычайна злучаюцца паміж сабой у чвэрць альбо ў шпунт. Мастацкая выразнасць Ш. ўзбагачаецца афарбоўкай. Аднаколерная афарбоўка паступова замяняецца 2-колернай і паліхромнай. *С. А. Сергачоў.*

**«ШАМІ́ЛЬ»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. Танцавала звычайна адна пара. Найбольш распаўсюджаны варыянт танца складаўся з дзвюх частак. У першай (павольнай) частцы хлопец прысядаў на калена, падпёршы галаву рукамі, быццам сумаваў, а дзяўчына, прытупваючы, бегала вакол хлопца, гладзіла яго, і, стараючыся падбадзёрыць, спявала прыпеўку: «Стань, прачнісь, мая душа,//Мы станцуем Шаміля,// Шаміль, Шаміль, ночка//Каўказская дочка». У другой (хуткай) частцы хлопец падымаўся і разам з дзяўчынай ішоў па крузе на прыгнутых нагах з падскокамі, выкрыкваючы «Ас-са!». Рукі на кожны падскок выканаўцы энергічна пераводзілі з боку ў бок на ўзроўні плячэй. У Гомельскай і Магілёўскай абл. сустракаецца варыянт танца, у якім у першай частцы сумавала, укленчыўшы, дзяўчына, а хлопец прытанцоўваў вакол яе. Канчаўся танец полькай або вальсам па крузе. У Акцябрскім р-не зафіксаваны варыянт танца, у якім удзельнічалі 2 хлопцы: адзін з нажом імітаваў сцэну забойства другога. Пасля «галашэння» жывога хлопца «забіты» ажываў (танец канчаўся імправізаванай пляскай). «Ш.» пашыраны па ўсёй Беларусі. Музычны варыянт запісаны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Буда-Кашалёўскім р-не Гомельскай вобласці. *Г. К. Каляда.*

**ШАПАВА́ЛЬСТВА,** шапавальнае рамяство, выраб з воўны (валенне, катанне) галаўных убораў, *валёнак, лямцу.* На Беларусі было развіта ўжо ў сярэднявеччы. У 16—17 ст. у гарадах існавалі рамесныя прафесіі магерачніка, шапавала. Валеныя *магеркі* і *брылі* былі пашыраны галаўным уборам бел. сялян. У 19 ст. шапавалы пачалі валяць і зімовы абутак — валёнкі, а таксама лямец для конскай вупражы. Асабліва пашыралася Ш. на У Беларусі. На Магілёўшчыне ў 1880-я г. гэтым саматужным промыслам займаліся сяляне Чавускага, Мсціслаўскага, Рагачоўскага, Магілёўскага, а таксама Рэчыцкага і інш. паветаў. Найбольшае развіццё промысел атрымаў у Дрыбінскай валасці Чавускага пав. (мяст. Дрыбін і 12 навакольных вёсак). Пераважала Ш. ў форме адыходнага промыслу. Майстры працавалі ў дамах заказчыкаў, пераходзілі з вёскі ў вёску са сваімі прыладамі працы (*брында* для рыхлення воўны, драўляныя і жалезныя *качалкі* для раскочвання лямцу, правідлы для надання вырабу патрэбнай формы, жалезныя шчоткі для расчэсвання ворсу). Дрыбінскія шапавалы ў час адыходніцтва карысталіся ўмоўнай мовай (гл. *Катрушніцкі лемязень).* У пач. 20 ст. змяніліся маштабы шапавальнага рамяства і тыпалогія валеных вырабаў. Лямцавыя магеркі і брылі выйшлі з ужытку. Пашырыўся выраб валёнак, асабліва дзіцячых; бытуе ён і ў наш час. Мясцовыя майстры вырабляюць валёнкі на свае патрэбы і на заказ, выкарыстоўваючы традыцыйную тэхналогію і прылады працы.

*Н. І. Буракоўская.*

**ШАРАПАДО́БНЫХ А́МФАР КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура неалітычных плямён, якія ў 3-м тысячагоддзі да н. э. насялялі ПнУ Цэнтральнай Еўропы, у т. л. тэрыторыю Заходняй Беларусі. Асноўныя заняткі — жывёлагадоўля, земляробства, паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Насельніцтва жыло на неўмацаваных паселішчах у паўзямлянкавых або наземных жытлах слупавой канструкцыі, накрытых двухсхільнымі стрэхамі. У цэнтры або ў адным з кутоў памяшканняў размяшчаліся адкрытыя агнішчы, каля жытлаў знаходзіліся гаспадарчыя ямы-сховішчы. Насельніцтва карысталася крамянёвымі і касцянымі прыладамі працы, у т. л. шліфаванымі сякерамі з паласатага крэменю, вырабляла гліняныя шарападобныя і пласкадонныя амфары, гаршкі, кубкі, арнаментаваныя ў верхняй частцы паясамі з гарызантальных ліній, спалучаных трохвугольнікаў, звісаючых фестонаў, утвораных парэзкамі, адбіткамі шнура і лінейнага штампа. Вядомы ўпрыгожанні з косці, бурштыну, гліны і ракавін — арнаментаваныя ўзорамі фігурныя спражкі, разнастайныя падвескі і нашыўныя аздобы — «гузікі». Пахавальны абрад — трупапалажэнне і няпоўнае трупаспаленне, абкладзенае камянямі, або ў каменных скрынях, па курганных і бескурганных магільніках. *М. М. Чарняўскі.*

**«ШАРЛАТА́Н»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп умерана хуткі. Назва «Ш.», верагодна, засталася як памяць пра знаходжанне французаў у 1812 на Беларусі. Вядомы тры варыянты «Ш.». У першым, найбольш распаўсюджаным, выканаўцы, размеркаваўшыся па парах, утваралі «ручаёк». Пара, што стаяла першай, выконвала па-дэ-баск управа і ўлева, потым праходзіла праз «ручаёк» і станавілася ззаду апошняй пары. Астатнія пары па чарзе праходзілі, прытупваючы, на месца першай пары і выконвалі тое ж самае. Дзяўчаты часам трымалі ў руцэ хустачку або галінку. У танец калінікалі ўключалі элемент гульні: музыка раптам пераставаў іграць, і пара, якая ў гэты момант прабягала праз «ручаёк», выходзіла і кланялася ўсім. З першымі акордамі музыкі танец пачынаўся зноў. У другім варыянце (запісаны ў Свіслацкім р-не) «Ш.» выконвалі тры пары. Танец складаўся з дзвюх частак. Першая — павольная: пара выкапаўцаў, узяўшыся за рукі, праходзіла ўперад і назад паміж дзвюма інш. парамі. У другой, хуткай, частцы тая ж пара прабягала пад паднятымі ўгору рукамі другой пары («варотцы»), а тая ў сваю чаргу — праз «варотцы» трэцяй пары, трэцяя — пад рукамі першай. Пасля гэтага танец пачыналі спачатку, аднак першай была ўжо інш. пара. Трэці варыянт запісаны ў Ваўкавыскім р-не. Выканаўцы, пераплёўшы правыя рукі ў цэнтры накрыж, рухаліся па крузе хуткім крокам управа. Потым, пераскокваючы з нагі на нагу, разыходзіліся ў розныя бакі. Пасля зноў сыходзіліся ў круг і, пераплёўшы левыя рукі ў цэнтры накрыж, рухаліся па крузе ўлева. Зрэдку «Ш.» суправаджаўся прыпеўкамі (напр., у Іванаўскім р-не). «Ш.» зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

*Г. К. Каляда.*

**ШАРХУНЫ́,** самагучальны музычны інструмент. Называлі таксама шаргунцы, шаламкі, шалестуны, шумёлы, бомы, бразготкі. Складаюцца з некалькіх (да 11) бронзавых (часам і медных) пустацелых шарыкаў розных памераў са шротам унутры, з прарэзамі па баках і вушкам у верхняй частцы. Пры патрэсванні ўзнікае меладычнае звонкае рознагалосае гучанне. У старажытнасці, паводле археалагічных даных, Ш. былі элементам жаночага ўпрыгожання і выконвалі не толькі эстэтычную, але і абярэгавую функцыю. У 19 ст. Ш. традыцыйна выкарыстоўвалі ў вясель-

ным абрадзе: іх па скураным паску чаплялі коням на шыю. З 2-й пал. 19 ст. Ш. сталі састаўным канструкцыйным элементам *бубна*. Спрадвеку Ш. выраблялі на Беларусі мясцовыя кавалі. *І. Дз. Назіна.*

**«ШАСТА́К»,** традыцыйны танец. Музычны памер $^4/_4$. Тэмп умераны. Выконваецца шасцю ўдзельнікамі. Танцоры становяцца ў дзве лініі па тры чалавекі адна супраць другой (хлопцы і дзяўчаты асобна). У лініях браліся за рукі. Лініі сыходзіліся ў цэнтры і вярталіся на свае месца. Пасля гэтага кожны ўдзельнік па чарзе выконвае паварот вакол сябе. Пры гэтым прыпяваюць: «Шэсць дзён малаціла, // Шастак зарабіла, // Сама сабе дзівавала, // Што так мала зарабляла». Пашыраны ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях. *С. В. Гуткоўская.*

**ШАЎЦЫ́,** майстры па шыццю і рамонту *абутку*. Шылі абутак (боты, чаравікі і інш.) для гарадскога і сельскага насельніцтва. Працавалі звычайна дома або па хатах (вандроўныя Ш.). Майстэрствам вырабу ботаў у 19 — пач. 20 ст. славіліся петрыкаўскія Ш.





Шархуны.

**Шархуны.** Вёска Будзічы Докшыцкага раёна.

**ША́ФА,** высокая, прамавугольная ў плане ёмістасць з 1—3 дзверцамі, часта скрынкамі ўнізе, прызначаная пераважна для захоўвання адзення; від *мэблі*. Вядома з позняга сярэднявечча як прыналежнасць палацавых і сядзібных інтэр'ераў, нярэдка была прадметам імпарту з краін Зах. Еўропы. З канца 19 ст. набыла пашыранне ў інтэр'еры нар. жылля, пераважна ў гарадах і мястэчках (у вёсках яе ролю выконвалі *куфры*). Ш. работы мясцовых майстроў-саматужнікаў мелі звычайна простыя прамавугольныя формы, аздабляліся фігурнымі філёнкамі, точанымі накладкамі, дэкаратыўнымі франтончыкамі барочнага характару, нярэдка *фляндроўкай*, якая імітавала карэльскую бярозу, чырвонае дрэва і інш. У 1930—50-я г. нярэдка займала важнае месца ў вясельных абрадах як сховішча для *пасагу*. У наш час набыла масавае пашырэнне прамысловай вытворчасці, амаль цалкам выцесніўшы куфры. *Я. М. Сахута.*

**ШАФЕРКА** (ш а ф е р у маладога), традыцыйныя вясельныя чыны, тое, што і *дружка* (*дружок* у маладога).

**«ШАХЦЁР»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Танец мудрагеліста спалучае ў сабе традыцыйныя нацыянальныя элементы са стандартнай бальна-гарадской танцавальнай схемай. Адметныя рысы танца — прытупы, плясканні далонямі перакрыжаваных з партнёрамі рук, над бойкую танцавальную прыпеўку, у якой дастаткова рэалістычна захаваны малюнкі з мінулага побыту і працы шахцёраў: «Шахцёр пашанькі не паша, // Касы ў рукі не бярэ, // Пад зямлёю ход вядзе, // Што заробіць, то прап'е». Зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Гомельшчыне. Цікавы варыянт зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ у Клімавіцкім р-не Магілёўскай вобл. Выконвалі яго толькі мужчыны. Яны станавіліся парамі, злучаныя ў далонях рукі падымалі высока над галавой, па чарзе прысядалі і падскоквалі ўверх у такт музыцы, потым прысядалі і ў гэтым стане кружыліся ў пары і па чарзе выкідвалі ногі ўперад. *А. Л. Варламаў.*

**ШВА́ГЕР,** брат жонкі або муж сястры ці швагеркі. Называлі таксама шва́гра, швагор. У бел. мове слова «Ш.» ужываецца з канца 16 — пач. 17 ст., выцесніўшы тэрміны «зяць» (муж сястры) і «шурын» (брат жонкі).

**ШВАГЕ́РКА,** сястра жонкі.

**ШКІЛО́НДЗЯ,** ш к і л е н д а, адзін з відаў мясной *каўбасы*, напханай у грубыя кішкі. Вядома на Гродзеншчыне, у паўн.-зах. частцы Беларусі. Ш. рабілі таксама са свіных вантроб, крыві.

**ШКІПІНА́Р,** т э р п е н ц і н, жаўтаватая вадкасць з вострым пахам. Здабываюць на *смалакурнях* у выніку сухой перагонкі сасновага асмолу. Ш. атрымліваюць таксама з сырацечнай смалы — *жывіцы* на лесахімічных прадпрыемствах (у БССР — Барысаўскі папярова-лесахімічны завод). Выкарыстоўваецца ў медыцыне, лакафарбавай вытворчасці і інш.

**ШКЛЮД,** разнавіднасць *сякеры*; тое, што і *склюд*.

**ШКУ́ДКА,** судна, прызначанае для захоўвання і перавозу жывой рыбы. Лакальная назва саж. Рабілі з дошак, накшталт лодкі, закрытай зверху. Для цыркуляцыі вады паміж дошкамі пакідалі шчыліны. Былі выдзеўбаныя Ш. Драўлянай калодзе надавалі належную форму, затым распілоўвалі яе ўдоўж напалам, выдзёўбвалі паласці, прасвідроўвалі ў сценках дзіркі, выразалі праём для дзверцаў і прыстаўлялі палавінкі адна да адной так, што пасудзіна набывала першапачатковую форму. Паміж сабой палавінкі змацоўвалі скобкамі. Ш. з рыбай прыбуксіроўвалі да лодкі, у якой знаходзіўся вясляр. Выкарыстанне Ш. было найбольш характэрна для традыцыйнага рыбалоўнага промыслу палешукоў. *І. М. Браім.*






Фрагмент **шафы.** Вёска Капысіца Шклоўскага раёна. 1925 г.

**Шафа.** Віцебшчына. 1883 г.

**ШЛЮБ,** гістарычна абумоўленая, санкцыяніруемая і рэгуліруемая грамадствам форма адносін паміж мужчынам і жанчынай, якая вызначае іх правы і абавязкі ў адносінах адзін да аднаго і да іх дзяцей. Упарадкоўвае і рэалізуе прыродную патрэбу людзей у прадаўжэнні роду.

Сацыяльная сутнасць Ш. вызначаецца пануючымі грамадскімі адносінамі і праяўляецца праз духоўна-псіхалагічныя (агульнасць духоўных інтарэсаў, схільнасцей, псіхалагічная сумяшчальнасць), маральныя (выкананне шлюбных абавязкаў адзін перад другім, перад дзяцьмі і перад грамадствам у цэлым), эканамічныя (стварэнне і ўзнаўленне матэрыяльных асноў сям'і), этнічныя (этнакультурнае ўзаемадзеянне, узнаўленне этнасаў) адносіны. На Ш. уплываюць таксама палітыка, права, мараль, рэлігія. Гіст. змены форм Ш. звязаны са зменамі ў спосабе вытворчасці.

Большасць сав. вучоных лічыць, што ў эпоху першабытнага чалавечага статку Ш. не было. Існавалі адносіны праміскуітэту, пры якіх кожная жанчына пэўнага статку належала ўсім мужчынам, а кожны мужчына — усім жанчынам. Пры родавым ладзе ўзнікла *экзагамія* і групавы Ш., які дазваляў палавыя зносіны мужчын адной групы з жанчынамі другой. Парны Ш. (адна шлюбная пара) узнік на аснове аб'яднання асобных пар яшчэ ў родавым ладзе спачатку як дыслакальны Ш. (муж і жонка працягвалі жыць кожны ў сваёй родавай групе), потым як матрылакальны (пераход мужа на жыхарства ў род жонкі) і патрылакальны (пераход жонкі ў род мужа). Маёмасць мужа і жонкі заставалася раздзельнай. Такі Ш. быў нетрывалым і лёгка распадаўся; захоўваліся і перажыткі групавога Ш. З распадам родавага ладу ўзнікла патрыярхальная сям'я і разам з ёй аднашлюбнасць, манагамны Ш. (гл. *Манагамія*), які павінен быў трывала аб'яднаць мужа і жонку паміж сабой і з іх патомствам, забяспечыць цэласнасць сям'і, якая стала эканамічнай ячэйкай грамадства.

У эксплуататарскіх класавых грамадствах характэрнымі рысамі Ш. былі: бяспраўнае становішча жанчыны і пануючае становішча мужчыны ў сям'і, яго прыярытэт у асабістых і маёмасных адносінах, у пытаннях выхавання дзяцей, прымусовасць шлюбнай вернасці і інш. Галоўнае месца пры ўступленні ў Ш. належала утылітарным меркаванням (наяўнасць уласнай маёмасці і інш.), якія пераважалі над маральна-этычнымі. Часта адсутнічала свабода выбару шлюбнага партнёра, абавязковым для ўсіх быў царкоўны Ш. Заключэнне Ш. было абмежавана канфесіянальнымі, этнічнымі, сацыяльнымі і інш. фактарамі. Забараняліся Ш. хрысціян з нехрысціянамі (магаметанамі, іудзеямі), у радзе выпадкаў — праваслаўных з каталікамі. Існавала своеасаблівая этнічная *эндагамія* (заключэнне Ш. ўнутры кожнага этнасу). Міжнацыянальныя Ш. былі выключэннем, ім перашкаджала палітычнае, тэрытарыяльнае, рэлігійнае, моўнае раз'яднанне, формы рассялення (кампактныя нацыянальныя вёскі, вуліцы і пасёлкі ў горадзе), бытавая замкнутасць, слабая сацыяльная і тэрытарыяльная мабільнасць, этнарасавая прадузятасць. Нацыянальна-змешаныя Ш. ў дарэвалюцыйны час утваралі некалькі эндагамных кругоў: слав. народаў (рускіх, беларусаў, украінцаў), блізкіх па культуры, мове, веравызнанню неслав. народаў, а таксама слав. і неслав. народаў, якія мелі ў мінулым гіст. сувязі (беларусы з літоўцамі і інш.). Існавалі абмежаванні і ў сацыяльным плане. Асобы, якія знаходзіліся на службе (воінскай, грамадзянскай), не маглі ўступіць у Ш. без дазволу начальства. Для ўсіх была абавязковай згода на Ш. бацькоў ці апекуноў. На Ш. аказвала ўплыў *звычаёвае права*, якое выконвала функцыю сацыяльнага кантролю. Многія нормы звычаёвага права, замацаваныя пазней як этнічныя традыцыі, прадугледжвалі наяўнасць пасагу, чаргу пры ўступленні ў Ш. (спачатку старэйшыя дзеці), адсутнасць блізкіх сваяцкіх адносін (немагчымы Ш. з дваюраднымі, траюраднымі братамі і сёстрамі, паміж пляменнікамі і цёткамі; захоўваецца і цяпер), цяжкіх спадчынных хвароб. Ш. былі галоўным чынам патрыманіяльнымі (пасля жаніцьбы сын жыў у бацькі), радзей — у жонкі (прымак). Існавалі Ш. «на сумленне» (звычай грамадзянскага афармлення Ш.).

З развіццём капіталізму, узрастаннем занятасці жанчын у сферы вытворчасці, падзеннем прэстыжу і ўплыву рэлігіі, дэмакратызацыяй шлюбна-сямейнага заканадаўства больш пашыранымі сталі новыя формы сямейных адносін, асабліва сярод рабочых, якія



Шкудка.

былі заснаваны на асабістых пачуццях і ўзаемным выбары.

Ш. пры сацыялізме — добраахвотны, раўнапраўны, свабодны ад карысных разлікаў і ўмяшання трэціх асоб саюз мужчыны з жанчынай, накіраваны на ўтварэнне *сям'і*. Заключаецца ў вызначаным законам парадку, спараджае ўстанаўленне асобных праваных адносін паміж мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі і інш. членамі сям'і. Ш. рэгіструецца дзярж. органамі запісу актаў грамадзянскага стану (загсамі) ці выканкомамі сельскіх (пасялковых) Саветаў нар. дэпутатаў, якія выконваюць функцыі загсаў, і рэгулюецца Асновамі заканадаўства аб шлюбе і сям'і і Кодэксам аб шлюбе і сям'і БССР. Рэлігійны абрад заключэння Ш. прававога значэння не мае, за выключэннем Ш., якія былі заключаны да ўтварэння ці аднаўлення сав. органаў загса і засведчаны дакументамі пра яго заключэнне. Ш. заключаецца пры ўмове ўзаемнай згоды і дасягненні 18-гадовага ўзросту. Муж і жонка маюць роўныя правы і абавязкі. Яны свабодныя ў выбары занняткаў, прафесіі, месца жыхарства. Пытанні выхавання дзяцей і інш. пытанні жыцця сям'і вырашаюцца імі сумесна. Не дапускаюцца прамыя ці ўскосныя абмежаванні пры ўступленні ў Ш. па матывах нацыянальнай, расавай прыналежнасці ці веравызнання. Ліквідацыя этнаізаліруючых бар'ераў, пашырэнне міжэтнічных кантактаў, рост колькасці і долі гарадскога насельніцтва, яго высокай этнічнай мазаічнасці ў выніку міграцыі, агульнае павелічэнне мабільнасці насельніцтва, асабліва моладзі, пазітыўнае стаўленне большасці яго да міжнацыянальных адносін прывялі да пашырэння Ш. міжнацыянальных. Ш. лічыцца зарэгістраваным з моманту выдачы пасведчання аб Ш., скасоўваецца на падставах, вызначаных законам.

*Л. В. Ракава.*

**ШЛЮ́БСКІ** Аляксандр Ануфрыевіч [псеўд. Этнограф, А. Ш., Звястун, Казальнік, Гаротная Алеся; 4(16).6.1897, в. Межава Расонскага р-на — 1941], беларускі савецкі этнограф, фалькларыст і бібліёграф. Скончыў Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага ін-та (1922). У 1918—23 удзельнічаў у арганізацыі архіваў у Веліжы, Віцебску, Оршы, Полацку. З 1923 у Інбелкульце, у 1929—30 у Ін-це гісторыі АН БССР. Быў рэпрэсіраваны (1930—35). Друкаваўся ў час. «Наш край», «Полымя», «Маладняк», газ. «Савецкая Беларусь». Даследаваў стараж. вераванні, матэрыяльную культуру беларусаў. Аўтар прац «Паны і сяляне ў першай палове XIX стагоддзя» (1924), «Крашаніна (набіванка)» і «Русальніца»: (Этнагр. нарыс)» (1926), нарысаў-партрэтаў Е. Р. Раманава, М. Я. Нікіфароўскага, У. М. Дабравольскага, З. Бядулі. Грунтоўныя бібліягр. даведнікі «Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі» (т. 4. Этнаграфія, 1927) і «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны» (ч. 1—2, 1927—28) не страцілі навук., грамадска-культурнай каштоўнасці і ў наш час. Склаў разгорнутую інструкцыю «Звесткі па збіранню вуснай народнай творчасці на Беларусі» (1919). Выступаў з артыкуламі пра культурна-асветнае жыццё Віцебшчыны, Мінска, пра падзеі грамадз. вайны на Беларусі, пра гісторыю бел. літаратуры, друку. Цікавіўся гісторыяй рускай этнаграфіі: пісаў пра цэнзурныя нягоды А. М. Афанасьева (Савецкая этнаграфія: Зб. артыкулаў. М.; Л., 1940. Вып. 4).

*А. С. Ліс.*

**ШЛЯХ,** вялікая (у адрозненне ад прасёлачнай) дарога, звычайна абсаджаная абапал дрэвамі.

**ШЛЯХІ́ І СРО́ДКІ ЗНО́СІН,** камунікацыі і транспарт; асобная сфера

матэрыяльнай вытворчасці і культуры. Традыцыйна падзяляліся на сухапутныя і водныя (гл. ў арт. *Рачны транспарт*). Становішча Ш. і с. з. адлюстроўвае ўзровень гаспадаркі, вытворчую спецыялізацыю і грамадскі падзел працы. Яно сведчыць пра рэальныя эканам. і этнакультурныя ўзаемасувязі, што складваюцца ў працэсе грамадскай жыццядзейнасці як у межах адзінай этнічнай тэрыторыі, так і паміж асобнымі народамі і краінамі. Ш. і с. з.— важны кампанент культурнага ландшафту, яны нясуць на сабе адбітак этнічных асаблівасцей, звязаных з узроўнем культуры, вытворчымі традыцыямі народа і прыродна-кліматычнымі ўмовамі краіны. Сухапутныя Ш. і с. з. здаўна адыгрывалі ў жыцці бел. народа істотную ролю. У стараж. перыяд, калі не існавала рэгулярных гандлёва-эканам. зносін, спецыяльна ўладкаваных сухапутных шляхоў на Беларусі было мала. Слова «шлях» літаральна азначала «след» ад чаго-небудзь. Такімі «шляхамі» ў глыбокай старажытнасці маглі быць паляўнічыя маршруты, выпадкова пракладзеныя ў лесе праходы ці звярыныя сцежкі да выпасаў або вадапою. Пазней шляхамі ўсё часцей пачалі называць бітыя сцежкі і наезджаныя дарогі паміж суседнімі паселішчамі або якія вялі ад паселішча да ракі, крыніцы, лясной падсекі, бортных угоддзяў і інш. Праз ручаіны і дрыгвяністыя ўчасткі клалі кладкі. У архаічным выглядзе яны ўяўлялі паваленыя дрэвы. З імі генетычна звязаны простыя свайныя збудаванні, т. зв. лавы і масткі. Лавы — нешырокі памост з 2—3 плах ці жэрдак, замацаваных над вадою на апорных шастах,— былі пашыраны ў прырэчных вёсках. На Палессі іх пракладвалі па балоцістых мясцінах у розных напрамках ад вёсак на дзесяткі і сотні метраў. Паступова ў паўсядзённай гаспадарчай дзейнасці складвалася сетка прасёлачных шляхоў, якія з цягам часу мянялі сваё аблічча і тапаграфію і ўтваралі складаны контурны малюнак (паміж балот, на беразе ракі, ускрайне лесу). У зімовы час пракладвалі часовыя маршруты напрасткі па тоўстым лёдзе рэк і азёр, па замерзлых балотах. Асабліва шмат такіх шляхоў-зімнікаў было ў Паазер'і і на Палессі. У лясных масівах пракладвалі прасекі. Гужавы шлях паміж суседнімі вёскамі, што вёў праз лес, у старажытнасці называўся перавалокай. Па ім грузы вазілі ва ўсе поры года звычайна на валакушах або санях; язда на санях на лясных дарогах летам сустракалася яшчэ ў 19 ст. Шлях, пракладзены праз лес, у старажытнасці называўся «чэста» (агульнаслав. «cěsta» літаральна азначала «чысціць ад лесу»). Больш позні тэрмін «дарога» вядомы з 12 ст. і этымалагічна паходзіць ад адпаведнага дзеяння «драць», «прадзірацца праз лес», што часцей было звязана з перамяшчэннем войска. Летапісы расказваюць пра ваенныя паходы кіеўскіх князёў на Полацк і Ноўгарад, што патрабавала ўзнаўлення стараж. шляхоў праз густыя лясы, будаўніцтва новых мастоў і гацей. У 10—11 ст. існавала асобая павіннасць мясцовага насельніцтва забяспечваць праезджых княжацкіх ганцоў конямі і вазніцамі. Намячаліся разрады сухапутных шляхоў, сярод якіх вызначаліся дарогі з бойкім рухам, што набывалі міжнароднае значэнне (гл. *Гасцінец*, *Тракт*). У 13—14 ст. па важнейшых дарогах, што звязвалі ўдзельныя цэнтры, была наладжана служба дастаўкі на месцы загадаў, распараджэнняў улад, пасылак. У 15—16 ст. яна ператварылася ў рэгулярную паштовую сувязь. Сухапутныя шляхі выконвалі істотную ролю ў падтрыманні функцыянальнай дзейнасці інстытута ўлады і адміністрацыйнага кіравання ў мясцовых і міжнар. зносінах, ва ўмацаванні этнакультурнага адзінства бел. народа.

Да міжраённых дарог (паштовых, гандлёвых, ваенных) прымыкала мноства менш значных шляхоў і прасёлкаў, якія ўзнікалі з надзённай патрэбы і мелі важнае значэнне ў правінцыяльных сувязях, у паўсядзённым гаспадарчым жыцці сельскіх акруг. Прасёлачныя дарогі вызначаліся звілістасцю, адлюстроўваючы характар мясцовых ландшафтаў. У іх было шмат адгалінаванняў, аб'ездаў, рызыкоўных пераправаў, даступных не ва ўсе поры года. Шлях да мэты вымяраўся нярэдка не вёрстамі, а колькасцю пераправаў ці брадоў, якія неабходна было пераадолець. Цвёрдае пакрыццё дарог у выглядзе насцілу з бярвення было пашырана ў Стараж. Русі. Такія насцілы рабілі нярэдка на гацях. Бярвёнамі або плахамі масцілі і вуліцы сярэдневяковых гарадоў. Першыя брукаваныя дарогі, што злучалі феадальныя замкі з бліжэйшымі гасцінцамі, вядомы з 17 ст. За станам прасёлачных і пэўных гандлёвых дарог наглядалі мясцовыя землеўладальнікі і земскія ўлады, праз землі якіх праходзілі дарогі. У афіцыйнай статыстыцы дарогі падзяляліся на класы ў адпаведнасці з роллю, якую яны выконвалі ў культурна-эканам. сувязях паміж рэгіёнамі, з напружанасцю руху па іх, шырынёй праезджай часткі, іх уладкаванасці. Доўгі час адзінай на Беларусі дарогай 1-га класа была брукаваная шаша Масква—Варшава (праз Крычаў — Бабруйск — Слуцк — Брэст). У 2-й пал. 19 ст. з цвёрдым пакрыццём былі буйныя магістралі, што звязвалі Пецярбург з Кіевам (праз Віцебск—Магілёў—Гомель), Брэст з Кіевам, Віцебск са Смаленскам. Аднак асноўную ролю ў транспартных зносінах на Беларусі па-ранейшаму адыгрывалі дарогі, бесперапынны рух на якіх быў магчымы толькі 8—10 месяцаў у годзе. Асабліва неспрыяльнымі былі ўмовы руху на дарогах Палесся, дзе дарожныя збудаванні затапляліся вадой і разбураліся. Нават узімку, калі ствараліся найлепшыя ўмовы для транспартнага руху, перавоз людзей і грузаў ускладняўся снежнымі заносамі. Увесну многія масты і іншыя дарожныя збудаванні часта разбураліся, праезджая частка затаплялася разводдзем і рэгулярны рух нават на важных гандлёвых трактах на месяц-другі спыняўся. Летам пасля ліўневых дажджоў плаціны і гаці часта размываліся, а рачныя брады станавіліся непраезджымі. Не заўсёды спраўнымі былі масты і паромныя пераправы. Частка паромаў здавалася ў арэнду прадпрыемцам, якія бралі павышаны збор за праезд і правоз тавараў. Паромы ў 19 ст. былі звычайным сродкам зносін на важнейшых сухапутных трактах. Нават на Маскоўска-Варшаўскай шашы транспартны рух прыпыняўся каля Рагачова, дзе экіпажы і грузы перавозілі праз Днепр на паромах. З-за адсутнасці мастоў паромы існавалі ў Магілёве, Гродне, Гомелі. Мост праз Дняпро ў Магілёве пабудаваны толькі ў 1860. Многія дарожныя збудаванні (масты, дамбы, плаціны, шлюзы і інш.) вызначаліся арыгінальнай канструкцыяй, трывала зробленыя з дрэва і каменю, яны адпавядалі лепшым узорам дарожнага будаўніцтва свайго часу. У сярэдзіне 19 ст. толькі ў Мінскай губ. даўжыня паштовых і ваенна-гандлёвых дарог дасягала 4146 км, на іх налічвалася 420 мастоў і 1522 гаці; на кожныя 9—10 км шляху прыходзіліся ў сярэднім 1 мост даўжынёю 23—24 м і 3—4 гаці каля 260 м кожная. На Палессі гэтыя паказчыкі былі ўдвая большымі. Шляхі мясцовага значэння з бязлічччу мастоў, плацін (часта з млынамі), гацей, пераходаў рамантавала і падтрымлівала ў належным стане мясцовае насельніцтва. Многім мастам і брадам народ даваў уласныя назвы ў залежнасці ад бліжэйшага ўрочышча, майстра-будаўніка або падання ці легенды, з ім звязаных (Гумнішчанскі, Ягораў, Чортаў, Воўчы і інш.).

Сухапутныя сродкі зносін адпавядалі стану шляхоў і тэхнічным магчымасцям часу, адлюстроўвалі практычныя патрэбы гаспадаркі і паўсядзённага побыту. Са стараж. часоў да канца 19 ст. пануючым быў *гужавы транспарт*. Сезонна-кліматычныя ўмовы вызначалі бытаванне на Беларусі двух асноўных яго тыпаў — колавы (калёсы, мажара, раскаты, фура, берлінка, дыліжанс, карэта, фурманка) і палазны (сані, кары, падсанкі, валакушы, вазок). Разнастайнасць тыпаў транспартных сродкаў, іх функцыянальная мэтазгоднасць, прыстасаванасць да мясцовых умоў сведчаць пра багатыя вытворчыя традыцыі, што скла́ліся ў працэсе шматвяковай працоўнай дзейнасці (гл. таксама *Вупраж*).

Будаўніцтва чыгунак адкрыла новы этап у развіцці сухапутнага транспарту, паскорыўшы рух і абарот транспартных грузаў. Правоз тавараў па чыгунцы нават у першыя гады іх існавання каштаваў у 8—10 разоў танней за гужавы транспарт. Чыгункі ўносілі прыкмет-

ныя карэктывы ў геаграфію насельніцтва, садзейнічалі хуткаму развіццю прамысловасці і гандлю, паскорылі урбанізацыю. Асноўная сетка чыгунак на Беларусі склалася ў 1860—80-я г. У 1862 праз Беларусь прайшоў першы 55-кіламетровы ўчастак чыгункі Пецярбург—Варшава (праз Вільню і Гродна). У 1866—68 пабудавана Рыга-Арлоўская чыгунка, што садзейнічала паскоранаму развіццю Віцебска і Полацка. Найбольш важнае значэнне для развіцця эканомікі і гандлю мелі пабудаваныя ў пачатку 1870-х г. Маскоўска-Варшаўская і Лібава-Роменская чыгункі, што скрыжаваліся ў Мінску і перасеклі асноўную тэр. Беларусі. У 1882—87 уведзена ў дзеянне сетка Палескіх чыгунак, якая адыграла значную ролю ў асваенні прыродных рэсурсаў і прамысловым развіцці гэтага краю. Адначасова будаваўся чыгуначны шлях з Вільні на Роўна (праз Ліду—Баранавічы). У пач. 20 ст. пачала дзейнічаць чыгуначная магістраль Пецярбург—Віцебск — Орша — Магілёў — Жлобін, дзе яна злучалася з Лібава-Роменскай чыгункай.

Пашырэнне аўтамабіля дало новы штуршок будаўніцтву бязрэйкавых дарог і паспрыяла развіццю сухапутнага транспарту. Шмат дарог было рэканструявана або пабудавана занава з улікам патрабаванняў аўтамабільнага руху. Агульная працягласць аўтадарог з цвёрдым пакрыццём на Беларусі ў наш час складае больш за 40 тыс. км. Развіццё авіяцыі зрабіла зносіны паміж далёкімі краінамі і кантынентамі звычайнай будзённай справай.

У сучасных умовах усе віды сухапутнага транспарту ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго і развіваюцца ў залежнасці ад іх эканам. прыстасаванасці да мясцовых умоў, функцыянальнай рацыянальнасці пры перавозцы пэўных грузаў. У гарадах, апрача аўтамабільнага транспарту, важную ролю ў пасажырскіх перавозках адыгрывае тралейбус і трамвай, у Мінску і метрапалітэн. Далейшае развіццё транспарту ідзе як па шляху тэхнічнага ўдасканалення і развіцця найбольш прагрэсіўных форм сувязей, так і будаўніцтва новых сучасных шляхоў, іх добраўпарадкавання і павелічэння колькасці транспартных сродкаў. Шляхі — важнейшыя жыццёвыя артэрыі, яны аб'ядноўваюць усе вытворчыя рэсурсы і працоўныя рэзервы ў адзін функцыянальны арганізм, ствараюць неабходныя ўмовы для развіцця аграрных і прамысловых комплексаў, адкрываюць для іх новыя патэнцыяльныя магчымасці.
*В. С. Цітоў.*

**ШЛЯ́ХТА** (польск. szlachta, чэш. šlechta ад стараж. верхненям. Slahta род, парода), прывілеяванае саслоўе ў Польшчы, Чэхіі, Літве, на Беларусі і Украіне ў 13 — пач. 20 ст. Эканамічнай асновай пануючага становішча Ш. была феадальная ўласнасць на зямлю. Узаемаадносіны паміж рознымі слаямі Ш. грунтаваліся на прынцыпах феадальнай іерархіі, што абумовіла эканам. і паліт. залежнасць малазаможнай і незаможнай Ш. ад магнатаў (паноў). Доступ у саслоўе Ш. быў магчымы толькі ў выключных выпадках за вялікія заслугі праз набілітацыю (наданне шляхецтва каралём, сеймам або гетманам на полі бою), адопцыю (прыём у геральдычны род прадстаўнікоў інш. саслоўяў і наданне ім права на карыстанне гербам і дэвізам або ўсынаўленне шляхціцам няшляхціца, які мог захаваць сваё прозвішча) і індыгенат (прызнанне шляхецтва прадстаўнікоў прывілеяваных саслоўяў інш. краін). У 1669 у Рэчы Паспалітай уведзены «скартабэлят» — няпоўнае шляхецтва як пераходнае становішча для набілітаваных сем'яў; на працягу трох пакаленняў яны не мелі права займаць пасады і выбірацца пасламі (дэпутатамі) сеймаў.

Ш. ў Польшчы ўзнікла ў 13—14 ст. пераважна з воінаў-прафесіяналаў (рыцараў). У барацьбе супраць магнатаў польскія каралі апіраліся на рыцарства і таму вымушаны былі задавальняць яго патрабаванні і расшыраць правы. Паводле прывілеяў 14—16 ст. і пастаноў сеймаў Ш. вызвалялася ад дзярж. павіннасцей (акрамя вайсковай службы і невялікага зямельнага падатку), ад юрысдыкцыі каралеўскіх суддзяў, мела права займаць дзярж. пасады, атрымала асабістую і маёмасную недатыкальнасць, удзельнічала праз сейм у прыняцці законаў і вырашэнні розных пытанняў. У Рэчы Паспалітай 16—18 ст. Ш. займала пануючае становішча, у 17—18 ст. складала 8% насельніцтва. Падзялялася на магнатаў, сярэднюю Ш. (валодала ад адной да некалькіх вёсак), заградовую (ваколічную, засцянковую) Ш.— мела сваю гаспадарку, але не мела сялян (на Беларусі да яе належала значная частка ардынацкай Ш., якая на васальных умовах за зямлю служыла магнату ў яго войсках, і чыншавая Ш.), Ш.-галоту — не мела сваёй зямлі і жыла пры магнацкіх дварах у якасці слуг.

У Вял. кн. Літоўскім асноўная маса феадалаў у 13 — 1-пал. 16 ст. называлася *баярамі*. Да Ш. належала і частка *зямян*. Упершыню баяры названы Ш. у Гарадзельскім прывілеі 1413. Канчаткова тэрмін Ш. на Беларусі замацаваўся ў сярэдзіне 16 ст. Каб забяспечыць падтрымку сваёй палітыкі, вялікія князі юрыдычна замацоўвалі звычаі, якія існавалі раней, і пашыралі правы феадалаў на ўзор прывілеяў Ш. ў Польшчы (прывілеі 1387, 1413, 1432, 1434, 1447, 1492 і больш познія, Статуты 1529, 1566, 1588). На сеймах 1696 і 1697 Ш. Вял. кн. Літоўскага канчаткова ўраўнавала свае правы з польскай Ш. Юрыдычная роўнасць усяго саслоўя Ш. Рэчы Паспалітай зацверджана ў 1638, 1673 і 1733 афіцыйнай забаронай тытулаў князя і графа, за выключэннем тых, якія былі дазволены актам Люблінскай уніі 1569 (у Вял. кн. Літоўскім). Спачатку большасць Ш. на Беларусі і Украіне прытрымлівалася праваслаўнага веравызнання. Невялікая частка яе захавала кальвіністкае веравызнанне. У выніку акаталічвання да пач. 19 ст. амаль уся Ш. Беларусі перайшла ў каталіцызм і лічыла сябе палякамі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі значная частка Ш. Вял. кн. Літоўскага атрымала правы дваранства Расійскай імперыі, паліт. правы Ш. былі абмежаваны. Указам ад 19.10.1831 частка Ш., якая не магла даказаць свайго шляхецтва, вылучылася з дваранскага саслоўя ў новы разрад насельніцтва — *аднадворцаў* і грамадзян зах. губерняў, якія былі пераведзены ў падатковае саслоўе. Значная частка Ш. набліжалася да становішча дзярж. сялян, а пасля буржуазных рэформ у Расіі мала чым ад іх адрознівалася. Апошнія прывілеі Ш. ў Польшчы, у т. л. ў Зах. Беларусі і Зах. Украіне, ліквідаваны ў 1921.
*А. П. Грыцкевіч, М. Ф. Спірыдонаў.*

**ШМАТНІТО́ВАЕ ТКА́ЦТВА,** тэхніка вырабу ўзорных тканін на ручным ткацкім стане з дапамогай 3 і болей нітоў (раміз). Рэгіёны найбольшага развіцця Ш. т. супадаюць з месцамі распаўсюджання ў канцы 19 — пач. 20 ст. ткацкіх школ-майстэрняў, якія спецыяльна ствараліся для тэхнічнага ўдасканалення хатняй ткацкай вытворчасці і развіцця саматужных промыслаў. З-за складанасці наладжвання стана і працэсу самога ткацтва не ўсе разнавіднасці Ш. т. атрымалі аднолькавае развіццё. Самыя распаўсюджаныя з іх — чатырохнітовае (гл. *Чатырохнітовае ткацтва*) і васьмінітовае, адна-ўточны варыянт якога бытаваў амаль на ўсёй Беларусі. Ён дазваляў вырабляць тканіны саржавага перапляцення з простым геаметрычным арнаментам у выглядзе квадратаў, прамавугольнікаў і ромбаў («у каралі», «у краты», «у драбнушкі»). Звычайна такія тканіны, выбраленыя з адбеленага льну, выкарыстоўвалі ў якасці абрусаў і ручнікоў. У Паазер'і і на Пн Падняпроўя (Дубровенскі, Аршанскі, Віцебскі, Сенненскі р-ны Віцебскай вобл.) на 8 нітах ткалі таксама шматколерныя паўсуконныя спадніцы-саяны, а ў Любанскім р-не — паліхромныя льняныя посцілкі. Нязначнае распаўсюджанне атрымала двухуточнае васьмінітовае ткацтва, геаметрычны ўзор якога ствараўся двухбаковым насцілам ніцей узорнага ўтку на фонавае палатно. Ткацтва на 3, 5 нітах бытавала пераважна на Паазер'і, Падняпроўі і ў Цэнтр. Беларусі. 3-нітовае ткацтва давала магчымасць атрымаць тканіны палатнянага, саржавага, паўажурнага і камбінаванага перапляцення. У пач. 20 ст. такім спосабам ткалі аднаколерныя паўшарсцяныя тканіны для андаракоў («убіванкі»). У іх шчыльна збіты шарсцяны ўток з правага боку поўнасцю закрываў льняную аснову, утвараючы ўточную саржу (уточная ніць перакрывала адразу дзве ніці асновы). У Талачынскім р-не ў







**Шматнітовае ткацтва** (5-нітовае і 6-нітовае).

**Шматнітовае ткацтва** (8-нітовае).

1920—30-я гады на 3 нітах ткалі льняныя спадпічныя тканіны-«ўзбрыгавачкі». Для іх рабілі асобую запраўку: у два ніты перабіралі фонавыя ніці асновы, а ў трэці — каляровыя праснаўкі, якія ў працэсе ткання час ад часу выходзілі паверх і насцілаліся на фонавае палатно. У Бабруйскім р-не ў пач. 20 ст. па аналагічнай запраўцы ткалі аднатонную льняную тканіну-«трыбушкі» з дробным фактурным узорам, які ўтвараўся ад таго, што незатканыя ніці асновы і ўтку сцягвалі ўчасткі палатна, размешчаныя паміж імі. Узоры аднаўточных пяцінітовых тканін натыкалі ў выглядзе парных штрыхоў з характэрнымі матывамі канцэнтрычных ромбаў, зігзагападобных ліній, квадратаў, шасцівугольнікаў. У такой тэхніцы ткалі льняныя ручнікі і абрусы, а таксама паўсуконныя андаракі (Паазер'е). У наш час гэты від Ш. т. амаль не выкарыстоўваецца. Ткацтва на 6 нітах было вядома амаль па ўсёй Беларусі, аднак шырокага развіцця не атрымала. Аднаўточны яго варыянт сустракаўся на Падняпроўі і ў Цэнтр. Беларусі, дзе ўжываўся для вырабу абрусаў з саржавым пераплясценнем (арнамент падобны да чатырохнітовай саржы, але з больш выразным ромба-геаметрычным узорам). Спарадычна сустракаюцца і двухуточныя шасцінітовыя тканіны, па вонкаваму выгляду і характару перапляцення падобныя на двухбаковы перабор з прыціскной асновай (гл. *Пераборнае ткацтва*), але іх геаметрычны арнамент адрозніваецца большай строгасцю і лаканічнасцю. Для вырабу такіх тканін выкарыстоўвалі 4 спецыяльныя ніты з доўгімі вочкамі, якія размяшчаліся ззаду 2 звычайных нітоў для фонавага палатна. Такі спосаб ткацтва асвоены на Верхнядзвінскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, дзе ён ужываецца для вырабу сувенірных ручнікоў і набораў сурвэтак. Ткацтва на 10, 12, 16 нітах бытавала ў Паазер'і, Панямонні і Цэнтр. Беларусі, але да нашага часу захавалася невялікая колькасць такіх вырабаў. Пераважна гэта тканіны саржавага перапляцення з шашачным геаметрычным арнаментам рознай складанасці (іх выраблялі з тонкіх ільняных ніцей для абрусаў і ручнікоў). З-за вялікай складанасці гэтых віды Ш. т. не атрымалі шырокага распаўсюджання.

*М. М. Вінікава.*

**ШНУР,** даўняя адзінка вымярэння даўжыні і плошчы. У сістэме мер Вял. кн. Літоўскага як адзінка даўжыні Ш. раўняўся 75 *локцям* (прыблізна 49 м), як адзінка плошчы — 100 квадратным *прутам.* У старабел. мове слова «Ш.» ужывалася і са значэннем зямельны ўчастак, сенажаць. Такое значэнне захавалася і ў сучаснай мове.

**ШНУРАВО́Й КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура плямён бронзавага веку, з 2-й пал. 3-га — сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. насялялі тэрыторыю Паўночнай, Цэнтральнай і часткова Заходняй Еўропы. Вылучаюць яе варыянты — *сярэднедняпроўскую культуру, прыбалтыйскую культуру*, адзінкавых пахаванняў, лодкападобных сякер, гарадоцка-здоўбіцкую, стшыжоўскую, палескую групу і інш. Плямёны палескай групы гэтай культуры насялялі паўн. частку Валыні і бас. Прыпяці. Асноўныя заняткі — жывёлагадоўля, земляробства, паляванне і рыбалоўства. Насельніцтва жыло на паселішчах, размешчаных на ўзвышэннях і ўчастках першай надпоймавай тэрасы па берагах рэк і азёр. Будавалі авальныя паўзямлянкі слупавой канструкцыі памерам каля 2,5×5 м, заглыбленыя ў зямлю на 0,3—0,4 м, з адкрытымі агнішчамі. Плямёны палескай групы карысталіся крамянёвымі і каменнымі прыладамі працы і зброяй, выраблялі гаршкі з S-падобным профілем, амфары яйцападобнай формы з вузкім цыліндрычным горлам, кубкі, упрыгожаныя разнастайнымі арнаментамі з гарызантальных паясоў, кароткіх ялінкавых, зігзагападобных, дугападобных адбіткаў шнура (адсюль і назва) у верхняй частцы пасудзін. Сярод упрыгожанняў — касцяныя падвескі і пацеркі, бронзавыя дыядэмы, скроневыя кольцы, бранзалеты, пранізкі, завушніцы, месяцападобныя падвескі, цвікападобныя заколкі і інш. Пахавальны абрад — трупапалажэнне і трупаспаленне на курганных і бескурганных могільніках. *У. Ф. Ісаенка.*

**ШНУРО́ЎКІ,** жаночыя чаравікі; да 20 ст. святочны *абутак* дзяўчат і маладзіц. Найчасцей высокія (да палавіны лыткі), на высокіх або нізкіх абцасах. Спераду або з боку шнураваліся тонкімі раменьчыкамі, каляровымі шнуркамі.

**ШПІЛЕ́ЎСКІ** Павел Міхайлавіч [псеўд. Драўлянскі, Знакомы чалавек, Барон Ікс; 31.10(12.11).1823, в. Шпілаўчы, Бабруйскі р-н — 17(29).10.1861], беларускі і рускі этнограф, пісьменнік, журналіст, публіцыст і тэатральны крытык. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1843), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1847). Выкладаў славеснасць у Варшаўскім павятовым духоўным вучылішчы



**Шнуроўкі.** 1920-я г.

(1847—52). У 1853—55 служыў у Пецярбургскім гал. педагагічным ін-це. Супрацоўнічаў у пецярбургскіх перыядычных выданнях «Музыкальный и театральный вестник», «Сын отечества», «Иллюстрация», «Русский мир», «Искусство». З 1846 выступаў як даследчык і папулярызатар этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі. Аўтар нарысаў і арт. «Беларускія народныя павер'і» (1846—52), «Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву ў 1600 годзе» (1850), «Народныя прыказкі, з тлумачэннем паходжання і значэння іх» (1852), «Даследаванне пра ваўкалакаў» (1853), «Мазыршчына (З падарожжа па заходнярускаму краю)» (1859), «Паездка ў заходнія губерні» (1860), публікацыі «Беларускія прыказкі» (1853). Цыклы белетрызаваных нарысаў Ш. «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» («Современник», 1853—55) і «Беларусь у характары-

стычных апісаннях і фантастычных яе казках» («Пантеон», 1853—54, 1856) — першыя буйныя публікацыі ў рускім перыядычным друку, прысвечаныя Беларусі. Нарысы арганічна сумяшчалі аўтарскія навуковыя разважанні і лірычныя адступленні, гіст. даведкі і маляўнічыя апісанні бел. гарадоў, фальклорныя запісы і этнагр. замалёўкі. Апублікаваў п'есу «Дажынкі» (1857), «Заходнярускія нарысы» (1858). Ш. належыць спроба стварэння слоўніка і граматыкі бел. мовы «Слоўнік і каранясловў беларускай гаворкі» (1845, рукапіс). Цікавіўся таксама гісторыяй, мовай і фальклорам літоўскага народа («Нарысы Жмудзі», 1855). Аўтар белетрыстычных твораў на рускай мове, некаторыя з іх маюць





**Штандары** свірна ў вёсцы Руднае Капыльскага раёна.

**Шпунтоўнік.**

аўтабіяграфічны характар, аповесці «Цыганё» (1855). Творы Ш., прысвечаныя Беларусі, сцвярджалі нацыянальную самабытнасць бел. народа, садзейнічалі фарміраванню бел. нацыянальнай культуры і літаратуры.

*С. А. Кузняева.*

**ШПУНТОЎНІК,** інструмент сталярнага рамяства, які выкарыстоўваўся для адбірання шпунта, чвэрці ў дошках і іншых будаўнічых дэталях. Называўся таксама шпунтавік. Ім апрацоўвалі, напр., канты планак, дошак, што ішлі на выраб акон, дзвярэй, на шалёўку. Вышыня 7—8, даўжыня 27—28, шырыня 23—25 см. Выраблялі з грабу, дубу, ясеню, бярозы.

**ШРЫК,** завостраны кол у галаве і хвасце *плыта* для затрымання яго на месцы. Рэгіянальная назва шарыга.

**ШТАНДА́РА,** паля, стаяк, моцная калода (найчасцей дубовая ці смалістая), якую ўкопвалі ў зямлю пад вугал будынка. Лакальная назва штэмпаля. Ш. дазвалялі лепш захоўваць ад вільгаці зруб, а пры будаўніцтве на няроўным месцы — ствараць адзіны ўзровень для ўкладкі *падваліны.* Часта іх ставілі і ўдоўж сцен. Ш., што ўкопвалі шчыльна адну да адной, звычайна былі больш тонкія, чым асноўныя, вуглавыя. Часцей удоўж сцен Ш. ставілі не шчыльна, што забяспечвала добрую вентыляцыю будынка. Гэта асабліва важна пры будаўніцтве свірнаў. У хатах Ш. часам таксама ставілі рэдка, але тады ў іх рабілі пазы, куды закладвалі брусы, дошкі, гарбылі, што дазваляла лепш захоўваць у хаце цяпло. Пабудовы на Ш. былі пашыраны па ўсёй Беларусі, акрамя Панямоння і Зах. Паазер'я, дзе часта фундаменты рабілі з валуноў.

*С. А. Сергачоў.*

**ШТАНЫ́,** адна з асноўных частак традыцыйнага мужчынскага адзення беларусаў; тое, што і *нагавіцы.*

**ШТРЫХАВА́НАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** археалагічная культура балцкіх плямён, якія ў 7—6 ст. да н. э.— 4—5 ст. н. э. насялялі тэрыторыю Цэнтральнай Беларусі і Усходняй Літвы. Асноўныя заняткі — ляднае земляробства, жывёлагадоўля, паляванне, рыбалоўства, бортніцтва, збіральніцтва, апрацоўка жалеза, дрэва, косці і інш. Да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. на-



Асноўныя шыпы **шул.**

сельніцтва жыло на селішчах, якія размяшчаліся на ўзвышэннях у поймах рэк і азёр, на мысападобных выступах першай надпоймавай тэрасы, з 5—4 ст. да н. э.— на гарадзішчах, умацаваных равамі і землянымі валамі з абарончымі сценамі. Будавалі вялікія і доўгія дамы слупавой канструкцыі, падзеленыя на некалькі (ад 3 да 6) жылых памяшканняў. Унутры іх размяшчаліся агнішчы круглай, авальнай ці падковападобнай формы, абкладзеныя па краях камянямі або валікам гліны. Жыхары спачатку карысталіся касцянымі, крамянёвымі і драўлянымі, пазней жалезнымі прыладамі працы і зброяй. Выраблялі гліняны грубы слабаабпалены і таўстасценны вастрарэбры посуд, пакрыты штрыхамі (адсюль назва культуры), або слабапрафіляваны і слоікападобны, арнаментаваны па рабры, плечуку, радзей па шыйцы зашчыпамі, ямкамі, нарэзкамі. Гліняныя праслiцы ўпрыгожвалі трохвугольнікамі, ромбамі, трапецыямі з кропак і ямак або ўзорамі з наразных ліній у выглядзе вуглоў, промняў і інш. Сярод упрыгожанняў — драцяныя скроневыя кольцы, кольцы для надвешвання аздоб, спіралькі, бранзалеты з разамкнёнымі і звужанымі канцамі, трапецападобныя і акулярападобныя падвескі, гліняныя пацеркі, а таксама імпартныя падкովападобныя фібулы з выемчатай эмаллю, бляхі з выявай галоўкі арла і выпуклыя бляшкі з пяцельками з тыльнага боку.*Л. Р. Мітрафанаў.*

**ШУГАЛЕ́Я,** лодка, выдзеўбаная з дубовага ствала, з набітымі сасновымі дошкамі; тое, што і *абіянік.*

**ШУ́ЛА,** вертыкальны апорны элемент у будынках слупавой канструкцыі і плоце *замётам.* Звычайна Ш. рабілі з дубу. Іх укопвалі ў зямлю ці ўрубалі ў *ачэп,* зверху таксама звязвалі ачэпам. Ш. ўспрымалі цяжар страхі і служылі асновай сцен, меді пазы, у якія заходзілі канцы бярвён. Вядомы 3 тыпы Ш.: звычайныя, якія злучалі бярвёны сцен; вуглавыя, што ставілі ў вуглах будынка, і тыя, што адначасова былі і вушакамі дзвярэй ці варот.

*С. А. Сергачоў.*

**«ШУПЛЯ́ДКА»,** танец. Музычны памер $^6/_8$. Тэмп жвавы. М. Федароўскі, адзначыўшы месца яго запісу (Ваўкавыскі пав.) і прыводзячы мелодыю, заўважыў, што «Ш.» танцуюць дзвюма парамі, як і кадрылю, пад прыпеўкі: «Адчыні акно, каб было відно, // Няхай я пагляджу, з кім я сяджу: // Ці з сем'янінам, ці з дваранінам? // Падобна, матуля, з войтавым сынам». Экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК на Гродзеншчыне зафіксаваны іншы варыянт танца. Танцоры, стоячы ў парах тварам адзін да аднаго і ўзяўшыся за рукі, выстрайваюцца ў адну лінію. Потым пары праз адну рухаюцца ў розныя бакі: першая — уперад, другая — назад. Рух гэты нагадвае высоўванне шуфлядак (адсюль, відаць, і назва). *Ю. М. Чурко.*

**ШУ́РКА,** мера дроў, роўная 2 $м^3$.

**ШУ́ФЕЛЬ,** прылада для зграбання зерня, мякіны, адкідвання снегу, смецця і г. д. Раней выкарыстоўвалі толькі драўляныя Ш. з доўгім дзяржаннем. Іх выдзёўбвалі з цэльнага дрэва (бярозы, ліпы, вольхі, клёна, асіны). Даў-

жыня самога Ш. 30—40 см, шырыня паўкружжа 15—20 см, даўжыня дзяржання 1,5—1,7 м. Пазней сталі майстраваць шырэйшыя Ш. з фанеры, радзей — з бляхі. У наш час ужываюцца для адкідвання снегу, смецця, меншага памеру фанерныя Ш.— для перамешвання збожжа на зернятаках. Край фанернага Ш. нярэдка абіваюць бляхай. *Л. І. Мінько.*

**ШУ́ФЛІК,** прылада для веяння абмалочанага збожжа; тое, што і *веялка ручная.*

**ШЧАДРАВА́ННЕ,** гл. ў арт. *Каляданне.*

**ШЧАДРЭ́Ц,** даўні звычай адзначаць вечар напярэдадні Новага года. Называлі яго таксама шчодрая *куцця*, багатая куцця. На Шч. абавязковымі стравамі былі бліны з верашчакай і смажанай каўбасою, каша, крупнік з парасяцінай, буракі. Стравам надаваўся магічна-абрадавы сэнс. Шч.— вечар варажбы. Пад абрус слалі салому (сена), пасля вячэры стукалі па абрусе рука-



Шуфель.

мі — «малацілі». Потым выцягвалі па саломіне і па яе даўжыні меркавалі, які вырасце лён, па колькасці знойдзеных зярнят — які будзе ўраджай (сабранае зерне сыпалі ў насенне, каб не было галаўні ў жыце). Дзяўчаты варажылі пра замужжа. З Шч. звязаны звычай шчадравання (гл. ў арт. *Каляданне*).

**«ШЧАДРЭ́Ц»,** калядная гульня. Бытавала як святочная забава на Магілёўшчыне напярэдадні Новага года. Зафіксаваў яе і апісаў у «Могилевских губернских ведомостях» (1852, № 11, частка неафіцыйная) карэспандэнт Н. Гашкевіч. Мае шмат агульнага з каляднымі гульнямі *«Каза», «Кабыла», «Мядзведзь»*. Галоўным у гульні быў «Шчадрэц», на ролю якога выбіралі мажнага хлопца. Яго апраналі старым (з маскай на твары, гарбом на спіне, вопратка была ўвешана званочкамі, каляровым рыззём, тасёмкамі, на галаве шапка з бліскучай паперы, з-пад якой звісалі валасы з пянькі ці лёну) або салдатам (жаўнерам) у адпаведным адзенні. «Шч.» хадзіў з пераапранутымі ў жывёлы — «казой», «кабылай», «мядзведзем» — і хлопцамі-шчадраванцамі (іх карагод складаўся з важатага, прыпявалаў, запявалаў, забіралаў, музыкантаў). Вечарам, напярэдадні Новага года, гурт адпраўляўся шчадраваць, што ўяўляла сабой тэатралізаваную сцэнку з музыкай, спевамі, танцамі, дыялогам. Важаты заходзіў у хату да гаспадара за дазволам пашчадраваць, а гурт у той час спяваў пад вокнамі. Атрымаўшы згоду, шчадраванцы ўваходзілі ў хату. Пад музыку на сярэдзіну хаты выходзілі «Шч.» з пераапранутымі ў жывёлы і танцавалі, а запявалы і прыпявалы спявалі. Разыгрываліся гумарыстычныя сцэнкі, адбываўся жартоўны дыялог паміж «Шч.», шчадраванцамі і гледачамі. Пасля завяршэння гульні яе ўдзельнікі атрымлівалі пачастункі і клалі іх у торбы забіралам. *Дз. У. Стэльмах.*

**ШЧО́ДРАЯ КУЦЦЯ́,** гл. ў арт. *Куцця.*

**ШЫ́РМА** Рыгор Раманавіч [8(20).1.1892, в. Шакуны Пружанскага р-на — 23.3.1978], беларускі савецкі харавы дырыжор, фалькларыст, педагог, публіцыст, грамадскі дзеяч. Нар. артыст СССР (1955), нар. артыст БССР (1949). Герой Сац. Працы (1977). Чл. КПСС з 1959. Скончыў педагагічныя курсы ў г. Свянцяны (1912), літаратурны факультэт Седлецкага настаўніцкага ін-та (1918). З 1912 настаўнічаў. З 1914 чл. этнагр. камісіі Рус. геагр. т-ва. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. З 1926 у Вільні: выкладчык бел. гімназіі, арганізатар і кіраўнік хору бел. гімназіі, хору Бел. саюза студэнтаў. Займаўся ў Зах. Беларусі вял. культурна-асветніцкай дзейнасцю (лектарскай, выдавецкай, наладжваў вечары слав. песні, дні бел. культуры і інш.). Сакратар Галоўнай управы Т-ва бел. школы (1926—37), арганізатар, выдавец і аўтар друкаванага органа т-ва — час. «Беларускі летапіс». Быў двойчы зняволены ўладамі буржуазнай Польшчы. Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР сфарміраваў у Беластоку Бел. ансамбль песні і танца (1940), рэарганізаваны ў Дзярж. хор БССР (1950), Дзярж. харавую капэлу БССР (1955, у 1957 нададзена найменне акадэмічнай), якую ўзначальваў да 1970 (у 1978 капэле прысвоена імя Ш.). Збіральніцкую дзейнасць пачаў з 1907. Запісаў больш 2000 нар. песень, казак, прыказак, прымавак, загадак. Склаў 12 фальклорных песенных зборнікаў, з іх 5 уласна музычна-этнагр.: «Дзвесце беларускіх народных песень» (М., 1958), «Беларускія народныя песні» (т. 1—4, 1959—76). Дзярж. прэміі БССР 1966 і 1974. Дэпутат Вярх. Савета БССР у 1955—78. Старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР і сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР у 1966—78. У Мінску на доме, дзе жыў Ш., устаноўлена мемарыяльная дошка, яго імя прысвоена музычнай школе ў Пружанах.

*Тв.:* Беларускія народныя песні. Вільна, 1929; Беларускія народныя песні, загадкі,



Р. Р. Шырма.

прыказкі. Т. 1. Мн., 1947; Беларускія народныя песні (для хору). Т. 1—2. Мн., 1971—73; Песня — душа народа. Мн., 1976. *Т. Б. Варфаламеева.*

**ШЭЙН** Павел Васілевіч [1826, Магілёў — 14(27).8.1900], беларускі і рускі этнограф і фалькларыст. Вучыўся ў нямецкім вучылішчы пры лютэранскай царкве св. Міхаіла (Масква). З 1851 працаваў выкладчыкам у розных паветовых вучылішчах і гімназіях Тулы, Віцебска (1865—73), Калугі і інш. З 1881 у Пецярбургу. Збіральніцкую дзейнасць пачаў у сярэдзіне 1850-х г. Выдаў напісаную пад уплывам міфалагічнай школы «Праграму для збірання помнікаў народнай творчасці» (Віцебск, 1867) — адну з першых спецыяльных фальклорных праграм у Расіі — і разаслаў яе па Беларусі. Меў шырокую сетку карэспандэнтаў, сярод якіх былі А. Я. Багдановіч, Я. Ф. Карскі, Ю. Ф. Крачкоўскі, Я. Лучына, М. Я. Ні-

кіфароўскі, З. Ф. Радчанка і інш. Найбольш шырока бел. матэрыял прадстаўлены ў кн. «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (т. 1—3, 1887—1902). У кнізе змешчаны апісанні хрэсьбін, калядных, масленічных, купальскіх, жніўных, вясельных, пахавальных абрадаў беларусаў з песнямі і фальклорнымі тэкстамі, міфалагічныя і бытавыя казкі пра жывёл, легенды, паданні, анекдоты, прыказкі, прымаўкі, загадкі, звесткі пра матэрыяльную культуру беларусаў (жыллё, адзенне, ежу, заняткі) і інш. Складальнік зборнікаў «Рускія народныя песні» (1870), «Беларускія народныя песні» (1874, змешчана больш за 1 тыс. тэкстаў), «Велікарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і т. п.» (т. 1, вып. 1—2, 1898—1902). Архіў Ш. зберагаецца ў Архіве АН СССР у Ленінградзе. *М. У. Новікаў.*

**«ШЭСЦЬ»**, традыцыйны масавы парны танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умераны. Танец складаецца з трох кален,



П. В. Шэйн.

кожнае з якіх выконваецца без дадатковай аб'явы, апошняе называецца «ручаёк». Парадак кален стабільны. Адрозніваецца сіметрыяй у кампазіцыйнай пабудове. Пры неаднаразовым паўторы кален і ўсяго танца ўвогуле натуральным з'яўляецца імправізаванае развіццё харэаграфічнай мовы. Перад пачаткам танца ўсе 12 чалавек парамі становяцца ў круг, дзяўчаты з правага боку хлопцаў. Яны бяруць левай рукою пад правую сагнутую ў локці руку сваіх партнёраў, свабодныя рукі апушчаны ўніз. У першым калене ўсе пары пераменным ходам з прытупам дынамічна рухаюцца па крузе. Потым спыняюцца. Першая пара ў вальсавым становішчы паварочваецца па крузе вакол пар, якія стаяць на месцы. Дайшоўшы да свайго месца, хлопец пакідае партнёрку, падыходзіць да дзяўчыны другой пары і выконвае з ёю тыя ж самыя рухі. Затым ён паўтарае рухі па чарзе з дзяўчатамі астатніх пар. Калена працягваецца да таго часу, пакуль усе юнакі не перятанцуюць па чарзе з усімі дзяўчатамі. У апошнім калене («ручайку») усе пары па чарзе ўслед за першай «ныраюць» у «вароты» і бягуць пад узнятымі рукамі да месца апошняй, а потым вяртаюцца на сваё. Як толькі пары дабягуць да сваіх месц, «ручаёк» паўтараюць у адваротным кірунку. Першай «нырае» апошняя пара. Танец пашыраны на правабярэжжы Прыпяці. Зафіксаваны ў Жыткавіцкім р-не Гомельскай вобласці. *М. М. Козенка.*



**ЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ШКОЛА** ў этнаграфіі, кірунак буржуазнай этнаграфіі. Сфарміравалася і атрымала найбольшае пашырэнне ў 2-й палове 19 ст. Эвалюцыйныя ідэі распрацоўвалі А. Басціян, Дж. Лебак, Э. Тэйлар і інш., прытрымліваючыся погляду, што культура этнасаў пастаянна развівалася. Яе развіццё, на іх думку, ішло ад простых форм да больш складаных, ад ніжэйшых да вышэйшых. Прадстаўнікі Э. ш. абгрунтавалі навуковае палажэнне пра адзінства культуры чалавецтва, але тлумачылі яго ідэалістычна — падабенствам мыслення, псіхікі розных этнасаў. Рухаючай сілай развіцця культуры яны памылкова лічылі змены ў свядомасці людзей. Працэс развіцця культуры ўяўлялі спрошчана: без барацьбы процілегласцей, без скачкоў. Сярод замежных эвалюцыяністаў 19 ст. вылучаецца Л. Г. Морган, які пазбавіўся многіх хібаў эвалюцыйнага метаду, наблізіўся да матэрыялістычнага светапогляду на гіст. працэс. Яго працы, асабліва «Старажытнае грамадства» (1877), высока ацанілі К. Маркс, Ф. Энгельс, У. І. Ленін. У Расіі ідэі Э. ш. прапагандавалі М. М. Кавалеўскі, М. І. Зібер, М. М. Харузін і інш.

На Беларусі эвалюцыйны кірунак у этнаграфіі быў пашыраны ў 1880—90-я г. і ў 1-й чвэрці 20 ст. Эвалюцыйны метад выкарыстоўвалі бел. этнографы М. В. Доўнар-Запольскі (паказаў эвалюцыю сям'і, вясельных звычаяў і абрадаў бел. этнасу), А. Я. Багдановіч (эвалюцыя рэлігійных вераванняў), А. К. Сержпутоўскі (даследаваў гэтым метадам грамадскі побыт, рэлігійныя вераванні, традыцыйныя гаспадарчыя занядкі і матэрыяльную культуру). Адмоўныя рысы эвалюцыйнага метаду ў найбольшай ступені адбіліся на працах Доўнар-Запольскага па гісторыі бел. вясельнага абраду, які ён вывучаў без сувязі з гісторыяй сям'і. Кожны вясельны звычай і абрад ён разглядаў ізалявана адзін ад аднаго. Ідэалістычны падыход, схематызм былі прычынай памылковага тлумачэння ім шматлікіх вясельных звычаяў і абрадаў як перажыткаў «куплі-продажу», «умыкання» нявесты. Значна менш хібаў у працы Багдановіча «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1895). У найбольшай ступені пазбег адмоўных рыс эвалюцыйнага метаду Сержпутоўскі, які блізка падышоў да матэрыялістычнага погляду на гісторыю бел. нар. культуры. *М. Ф. Піліпенка.*

**ЭКЗАГАМІЯ** (грэч. éxō па-за, звонку + + gámos шлюб), характэрны для першабытнаабшчыннага ладу звычай, які забараняў шлюб паміж членамі адной родавай групы. З распадам першабытнаабшчыннага ладу Э. замянялася забаронай шлюбу паміж кроўнымі родзічамі.

**ЭНДАГАМІЯ** (грэч. éndon унутры + + gámos шлюб), звычай, які дазваляў шлюб толькі паміж членамі адной грамадскай групы (племя, часам роду). Э. племя найчасцей спалучалася з *экзагаміяй* родаў, што ўваходзілі ў яго.

**ЭПІГРАФІКА** (ад грэч. epigraphē надпіс), дапаможная гістарычная і філалагічная дысцыпліна, што вывучае формы і змест старажытных і сярэдневяковых надпісаў, зробленых часцей за ўсё на пячатках, абразках, прасліцах, манетах, званах ці на сценах пабудоў, камянях, каменных крыжах. На Беларусі найбольш характэрныя кірылаўскія і лацінскія надпісы, зрэдку сустракаюцца арабскія і яўрэйскія. Могуць быць выдрапаныя вострым прадметам, чаканеныя, гравіраваныя, рэзаныя, дротавыя, напаяныя і інш. Вядомы старажытнарускія надпісы 11 ст. ў Полацкім Сафійскім саборы, 12 ст. на сценах Навагрудскага «дома баярына», у Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царкве, на крыжы Ефрасінні Полацкай, *Барысавых камянях* і Рагвалодавым камені, 13 ст. ў Благавешчанскай царкве ў Віцебску. Значную частку эпіграфічных помнікаў складае археалагічны матэрыял (у асноўным 11—13 ст.): каменныя і медныя абразкі, пячаткі, амфары, грабеньчыкі, плацежныя сярэбраныя зліткі, косці для гульні, шыферныя праслiцы, ліцейныя формачкі. Надпісы азначаюць імя ўладальніка ці майстра, а на абразках — імёны «святых». *Л. У. Дучыц.*

**ЭТНАГЕНЕЗ** (грэч. éthnos племя, народ + génesis паходжанне), працэс фарміравання этнічнай супольнасці. У шырокім сэнсе слова Э. ахоплівае вялікі гіст. перыяд складвання і існавання *этнасу* ў розных этнасацыяльных формах (*племя, народнасць, нацыя*). Э. многіх сучасных еўрапейскіх народаў, у т. л. *беларусаў*, узыходзіць да

этнічных супольнасцей апошніх этапаў першабытнасці, эпохі ваеннай дэмакратыі і раннякласавых грамадстваў — плямён, племянных саюзаў, народнасцей. Актыўныя сацыяльна-біялагічныя працэсы *міксацыі, асіміляцыі* і *кансалідацыі* абумовілі ўзнікненне новых народаў феадальнай эпохі (народнасцей), якія далі пачатак існуючым зараз этнасацыяльным супольнасцям (нацыям). Э. амаль кожнага этнасу характарызуецца ўзаемасувяззю двух этнагенетычных працэсаў: кансалідацыі і развіцця стараж. больш дробных аўтахтонных этнічных кампанентаў і ўключэннем у працэс Э. перасяленцаў (мігрантаў). Вывучэннем пытанняў Э. розных народаў займаюцца гісторыкі, этнографы, археолагі, лінгвісты, антраполагі, фалькларысты і інш.

*А. І. Кушнір, Г. У. Чаквін.*

**ЭТНАГРАФІ́ЗМ У ЛІТАРАТУ́РЫ,** адлюстраванне ў мастацкай літаратуры этнаграфічных асаблівасцей народа, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры. Адна з найбольш характэрных рыс нацыянальнай спецыфікі мастацкай культуры. Кожная нацыянальная літаратура і інш. віды мастацтва ў сваім станаўленні праходзяць стадыю этнаграфізму — максімальнай і непасрэднай набліжанасці тэматыкі, топікі (набору сюжэтаў) і выяўленчых сродкаў да сацыяльна-гістарычнага быцця народа, яго традыцыйнай мастацкай творчасці — фальклору, тыповых для гэтага народа вобразаў і сімвалаў, да жывой нар. мовы ў разнастайнасці яе дыялектных асаблівасцей. У больш позні, класічны, перыяд развіцця прафесійнае мастацтва адлюстроўвае паўнату нар. быцця, яго ідэалаў і духоўных каштоўнасцей. Аднак цяпер гэта ўжо не простае наследаванне фальклору і інш. этнагр. формам культуры, а іх глыбокае мастацкае пераасэнсаванне ў адпаведнасці з традыцыямі рэгіянальнага і сусветнага мастацкага прафесіяналізму. Калі ж наступае яго ўпадак (фармалізм, натуралізм, эпігонства), то ў літаратуры, музыцы, архітэктуры, выяўленчым і інш. мастацтве, з аднаго боку, наглядаецца разрыў з нар. традыцыямі, частковае ці нават поўнае знікненне нацыянальна-этнагр. асаблівасцей (мадэрнісцкія плыні) і, з другога боку, іх штучная стылізацыя, рамесніцкія падробкі пад нар. культуру. Паводле марксісцка-ленінскай эстэтыкі, такі ўпадак мастацкага прафесіяналізму не з'яўляецца канчатковым вынікам навукова-тэхнічнага прагрэсу і урбанізацыі жыцця. У спрыяльных эканам. і сацыяльна-культурных умовах магчыма адраджэнне нацыянальных культур, у т. л. арыгінальнай мастацкай літаратуры.

Інтэнсіўнасць і характар выяўлення этнаграфізму не аднолькавыя на розных этапах станаўлення і развіцця бел. літаратуры. Яе вытокі — у стараж.-рускай сінкрэтычнай пісьменнасці, выдатныя творы якой у вобразнай форме апавядаюць пра паходжанне ўсх. славян, іх рассяленне і хрышчэнне, пра іх нораўы і звычаі, паходжанне Русі («Аповесць мінулых гадоў»), апяваюць гераічныя ўчынкі народа («Слова пра паход Ігаравы»), раскрываюць яго духоўнае аблічча (творы Кірылы Тураўскага і інш. пісьменнікаў). Стараж.-бел. сярэдневяковая літаратура (14—16 ст.), мова якой была дзярж. моваЙ Вял. кн. Літоўскага, адлюстравала станаўленне бел. народнасці і яе этнічных асаблівасцей («Летапісец вялікіх князёў Літоўскіх», Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., Хроніка Быхаўца і інш.). Некаторыя нацыянальныя спецыфічныя рысы беларусаў выявіліся ў літаратуры перыяду Рэнесанса (16—1-я палавіна 17 ст.), асабліва іх маральныя і эстэтычныя ідэалы (творы Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, В. Цяпінскага і інш.), правасвядомасць (бел. звычаёвае права — адна з крыніц Статутаў Вял. кн. Літоўскага 1529, 1566 і 1588), паліт. і рэлігійныя арыентацыі (палемічная публіцыстыка 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст., творчасць М. Смятрыцкага, А. Філіповіча і інш.).

У 2-й пал. 17 — пач. 19 ст. ва ўмовах паланізацыі і русіфікацыі сацыяльных вярхоў бел. грамадства і страты бел. моваЙ статуса дзярж. мовы бел. літаратура развівалася пераважна ў рэчышчы неафіцыйнай этнагр. культуры (рукапісная паэзія і публіцыстыка ў жанры травесці, бел. інтэрмедыі ў школьнай драме 18 ст.). Яна адлюстравала светапогляд і пэўныя рысы побыту пераважна сацыяльных «нізоў» — сялян, рамеснікаў, шкаляроў, дробных гандляроў. Галоўныя функцыі літаратуры (адлюстраванне нар. жыцця, развіццё мовы і фарміраванне спецыфічнай для кожнага народа сімволікі) узяў на сябе фальклор — адзін з самых высакаразвітых у слав. рэгіёне. Пры тагачаснай сацыяльнай структуры грамадства (абсалютная колькасная перавага сялянства і інш. працоўных слаёў) вымушаны пераход бел. літаратуры на этнагр. становішча, страта ёю пэўных рыс прафесіяналізму запаволілі развіццё нацыянальнага мастацтва, але не падарвалі карэнняў роднай мовы і традыцыйнай духоўнай творчасці, бо жыў і тварыў іх стваральнік і носьбіт — бел. народ. Яго творчыя сілы і мастацкі талент, не знаходзячы выхаду ў прафесійным мастацтве, яскрава выявіліся ў фальклорна-этнагр. формах культуры. У ёй была закладзена надзейная аснова для адраджэння бел. літаратуры, літаратурнай мовы, усёй нацыянальнай мастацкай культуры. Яе пачынальнікі — ананімныя аўтары паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч і інш. пісьменнікі — арыентаваліся на працоўны народ — яго сямейна-бытавы лад, на этнічна самабытныя рысы культуры і вусную нар. творчасць. На аснове гэтых традыцый, узбагачаных дасягненнямі іншанацыянальных культур, найперш рускай, польскай і ўкр., заснавальнікі рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні ў бел. літаратуры К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Цётка, класікі нашай літаратуры Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, іх паслядоўнікі, пісьменнікі і публіцысты газ. «Наша ніва» стварылі нацыянальную самабытную мастацкую культуру.

Мастацкай энцыклапедыяй нар. побыту і духоўнай культуры беларусаў сталі выдатныя творы Я. Купалы (вершы, паэма «Яна і я»), Я. Коласа (апавяданні, паэма «Новая зямля»), М. Гарэцкага (апавяданні, раман «Камароўская хроніка») і інш. творы, у якіх таленавіта выяўлены прыгожыя, гуманныя рысы нар. ладу жыцця. У 1920-я г. традыцыі праўдзівага адлюстравання нар. побыту і паэтызацыі яго сацыялістычнага абнаўлення развівалі пісьменнікі аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша» (А. Бабарэка, С. Баранавых, З. Бядуля, У. Галубок, У. Дубоўка, М. Зарэцкі, М. Нікановіч, Я. Пушча, Я. Скрыган, М. Чарот, К. Чорны і інш.). Вульгарна-сацыялагічная крытыка (Л. Бэндэ, Я. Бранштэйн і іх паслядоўнікі 30—50-х г.) аб'явіла буржуазным нацыяналізмам Э. у л., арыентацыю на фальклор і традыцыйную нацыянальную сімволіку, што запаволіла або зусім спыніла станаўленне нацыянальнай школы ў бел. мастацтве. Цікавасць да традыцый этнагр. культуры адрадзілася ў 50—60-я г. У раманах І. Мележа «Людзі на балоце» (1961), «Подых навальніцы» (1964—65), «Завеі, снежань» (1976) па-эпічнаму шырока паказаны штодзённы побыт працоўнага сялянства на Бел. Палессі, традыцыйныя нар. святы і абрады. Праніклівая гіст. інтуіцыя дазволіла У. Караткевічу па-мастацку «рэканструяваць» самабытнасць нар. быцця бел. мінуўшчыны (раманы «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» і інш.). Мастацкі этнаграфізм у лепшым значэнні гэтага слова характэрны для паэзіі П. Панчанкі, М. Танка, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, Я. Янішчыц, інш. сучасных паэтаў, для прозы Я. Брыля, В. Адамчыка, І. Пташнікава, лепшых твораў т. зв. «вясковай прозы». Сёння ва ўмовах агульнай урбанізацыі і уніфікацыі побыту этнаграфізм у розных відах мастацтва нярэдка набывае рэтраспектыўны характар, выяўляецца ў настальгіі па страчанай цэласнасці нар. быцця.

*У. М. Конан.*

**ЭТНАГРАФІ́ЧНАЯ ГРУ́ПА,** лакальна-тэрытарыяльная група насельніцтва, якая адрозніваецца асаблівасцямі традыцыйнай матэрыяльнай і духоўнай культуры, побыту, часам мовы. Паходжанне Э. г. звычайна звязана з прыродна-кліматычнымі ўмовамі жыцця, родам гаспадарчых заняткаў, радзей — са спецыфікай этнагенезу і этнічнай гісторыі насельніцтва пэўнай тэрыторыі. Этнічная самасвядомасць Э. г. звычайна выяўлена слаба, таму пераважаюць адпаведныя мясцовыя (зямляц-

кія) самавызначэнні — пінчукі, случакі, быхаўцы, палачане, мсціслаўцы, тураўцы і інш. У перыяд феадалізму актывізацыя этнаўтваральных працэсаў садзейнічала аб'яднанню Э. г. у межах буйных гісторыка-этнагр. і субэтнічных супольнасцей беларусцаў, палешукоў і літвінаў. У пач. 20 ст. лакальныя асаблівасці большасці Э. г. Беларусі паступова былі нівеліраваны агульнабел. кансалідацыйнымі працэсамі, што прывяло да ўзмацнення агульнаэтнічнай самасвядомасці ( на змену мясцовым самавызначэнням прыйшоў агульны этнонім — беларусы). У наш час некаторыя групы насельніцтва Зах. і Усх. Палесся, Панямоння, Верхняга Падняпроўя, Падзвіння захоўваюць пэўныя асаблівасці традыцыйнага жылля, адзення, абрадаў, звычаяў, фальклору і інш.

*І. У. Чаквін.*

**ЭТНАГРАФІ́ЧНАЯ ТЭРМІНАЛО́ГІЯ,** сістэма тэрмінаў навукі, якая вывучае народ-*этнас* у асяроддзі іншых народаў і этнічных супольнасцей, яго *этнагенез*, побыт, культурна-гістарычныя адносіны. Асноўная частка ўласна навуковых паняццяў этнаграфіі (гісторыка-этнаграфічная вобласць, гаспадарча-культурны тып, субэтнічная агульнасць, тэорыя этнасу, этнікос, этнасацыяльны арганізм, этнацэнтрызм і інш.) сфарміравалася ў 1960—80-я г. ў працах Ю. У. Брамлея, В. П. Аляксеева, В. І. Казлова і інш. Частка тэрмінаў сав. этнаграфіі запазычана з зарубежнай этнаграфіі (акультурацыя, поліэтнічнасць і інш.).

Аснову бел. Э. т. складаюць намінацыі рысаў традыцыйнай паўсядзённай (бытавой) культуры беларусаў, што ствараюць іх этнічнае аблічча. Галоўная крыніца гіст. фарміравання бел. Э. т. — зафіксаваная шляхам непасрэднага назірання жыцця бел. народа (стацыянарныя экспедыцыйныя даследаванні, збор калекцый і інш.) або выкарыстання анкетных матэрыялаў лексіка, якая ўжываецца ў нар. гаворцы для абазначэння прадметаў і з'яў паўсядзённай культуры. Э. т. цесна звязана з тэрміналагічнымі сістэмамі археалогіі, гісторыі, наколькі гэтыя навукі ва ўзаемадзеянні ўзнаўляюць этнічную гісторыю, першабытнаабшчынны лад. Ва ўзаемадзеянні з тэрміналагічнымі сістэмамі мастацтвазнаўства і фалькларыстыкі Э. т. адлюстроўвае з'явы нар. творчасці, а разам з тэрміналагічнымі сістэмамі эканомікі, сацыялогіі — гаспадарчую дзейнасць і сацыяльную структуру, з тэрміналагічнай сістэмай мовазнаўства — праблемы моўнай роднасці, узаемадзеянняў і г. д.

У склад Э. т. ўваходзіць частка геагр. тэрмінаў, якія выкарыстоўваюцца пры вывучэнні ўзаемадзеяння этнасу беларусаў і прыроднага асяроддзя, тыпаў рассялення, а таксама дэмаграфічныя і антрапалагічныя тэрміны, што выкарыстоўваюцца пры даследаванні міграцый і колькасці бел. народа, яго этнагенезу. Э. т. ахоплівае назвы адцягненых паняццяў тэорыі этнаграфіі (этнічны аспект, перабудова побыту, этнічны працэс, фарміраванне этнасу і г. д.) і назвы канкрэтных прадметаў і рысаў паўсядзённай нар. культуры. Развіццё Э. т., як і бел. навуковай тэрміналогіі наогул, уключае два асноўныя аспекты: натуральнае, у многім стыхійнае складванне тэрмінаў этнаграфіі і ў працэсе фіксацыі звестак аб рысах жыцця бел. народа, развіццё бел. этнагр. навукі і мэтанакіраваная работа па развіццю і ўпарадкаванню Э. т., стварэнню сістэмы этнагр. тэрмінаў, якая поўна і дакладна перадае сістэму паняццяў сучаснай бел. этнаграфіі.

Этнагр. звесткі пра бел. народ, яго мову і звычаі і адпаведныя намінацыі тэрміналагічнага характару сустракаюцца ў стараж. летапісах, у кнігах Ф. Скарыны, шматлікіх помніках дзелавой пісьменнасці 14—17 ст. (дакументах, складзеных пры канцылярыі вял. князя літоўскага і ў мясцовых дзярж. установах Вільні, Гродна, Магілёва, Брэста, Мсціслава, Навагрудка і інш., некаторых дакументах, напісаных пры двары польскага караля і адрасаваных у Літву). Пераважная большасць гэтых помнікаў напісана на старабел. мове ў перыяд выкарыстання яе ў Вял. кн. Літоўскім у якасці дзяржаўнай. У канцы 19— пач. 20 ст. ў сувязі са станаўленнем бел. буржуазнай нацыі, ростам нацыянальнай і класавай самасвядомасці і павелічэннем колькасці нацыянальнай інтэлігенцыі ажывілася развіццё бел. культуры, літаратуры, навукі і адпаведна актыўна фарміравалася навуковая тэрміналогія, у т. л. этнаграфічная. Яна зафіксавана ў працах па матэрыяльнай культуры і вытворчаму побыту бел. народа А. М. Харузіна, Е. Р. Раманава, А. К. Сержпутоўскага, І. А. Сербава і інш. Праведзеная ў гэты час значная праца Я. Ф. Карскага і інш. даследчыкаў па сістэматызацыі сабранага фальклорна-этнаграфічнага матэрыялу ў многім звязана і з сістэматызацыяй Э. т. У 1910-я г. рамкі этнагр. даследаванняў звузіліся ў сувязі з імкненнем царызму заглушыць краязнаўчы рух, які садзейнічаў росту нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Этнагр. вывучэнне бел. народа ў сав. час і адпаведна развіццё Э. т. прайшло два перыяды. У даваенны перыяд склалася тэрміналогія такіх аспектаў этнаграфіі Беларусі, як матэрыяльная культура, вытворчы, сямейны і грамадскі побыт бел. сялянства, яго звычаі, абрады, вераванні, нар. веды. У пасляваенны перыяд актыўна сістэматызуецца тэрміналогія па этнічнай гісторыі бел. народа, яго побыту і культуры, праводзіцца работа па свядомаму, мэтанакіраванаму ўпарадкаванню бел. Э. т. У 50—80-я г. Э. т. зафіксавана ў працах па этнагенезу беларусаў, матэрыяльнай і духоўнай культуры сельскага і гарадскога насельніцтва Беларусі.

*Л. А. Антанюк.*

**ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ РЭГІЁН,** рэгіён, што вылучаецца на якой-небудзь тэрыторыі паводле комплексу этнакультурных прыкмет: асаблівасцей этнічнай гісторыі, характару рассялення, гаспадарчых заняткаў і прылад працы, нар. архітэктуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, традыцыйнага адзення, фальклору, мясцовых гаворак і інш. Гл. арт. *Гісторыка-этнаграфічны рэгіён.*

**ЭТНАГРАФІ́ЧНЫЯ МУЗЕ́І,** навукова-даследчыя і культурна-асветныя ўстановы, якія збіраюць, зберагаюць, вывучаюць, экспануюць і папулярызуюць калекцыі, што характарызуюць матэрыяльную і духоўную культуру, побыт, сацыяльныя адносіны і грамадскі лад розных народаў. Сваімі вытокамі звязаны з фарміраваннем этнагр. калекцый у складзе збораў рэдкіх прадметаў і комплексных музеяў. Этнагр. напрамак быў адным з асноўных пры камплектаванні калекцый Кунсткамеры ў Пецярбургу (заснавана ў 1714). На базе яе этнагр. і антрапалагічнай калекцый у 1879 створаны Музей антрапалогіі і этнаграфіі. У 1831 у Пецярбургу адкрыты Румянцаўскі музей (з 1861 у Маскве). У фондах музея было шмат стараж. помнікаў, гіст. рэліквій і твораў мастацтва, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі. Першым у Расіі Э. м., які калекцыяніраваў прадметы традыцыйнай культуры і побыту беларусаў, быў т. зв. Дашкаўскі музей (аснову склалі экспанаты Усерасійскай этнагр. выстаўкі 1867 у Маскве). У 1895 у Пецярбургу заснаваны Рускі музей з аддзелам этнаграфіі народаў Расійскай імперыі, славян і суседніх краін. У пач. 20 ст. ў ім сфарміравана буйная калекцыя прадметаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, побыту беларусаў (адзенне, тканіны, цяслярскія прылады, транспартныя сродкі і інш.), сабраныя ў Магілёўскай, Мінскай, Віцебскай і Віленскай губернях Е. Р. Раманавым, А. К. Сержпутоўскім і інш. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачаліся рэарганізацыя старых і стварэнне новых Э. м., этнагр. аддзелаў у комплексных музеях. У 1924 у Маскве на базе Румянцаўскай і Дашкаўскай калекцый заснаваны Цэнтр. музей народазнаўства (потым Музей народаў СССР). У 1934 у самастойны музей рэарганізаваны этнагр. аддзел Рускага музея. У 1948 уключаны і этнагр. фонды Музея народаў СССР, атрымаў назву *Музей этнаграфіі народаў СССР.* З 1972 тут існуе пастаянная экспазіцыя «Беларусы». Пасля Вял. Айч. вайны ствараліся новыя этнагр. музеі і аддзелы, папаўняліся старыя этнагр. экспазіцыі. Шырокае распаўсюджанне атрымалі галіновыя Э. м. і т. зв. скансены (Э. м. пад адкрытым небам).

На Беларусі ў 16—18 ст. па ініцыятыве мецэнатаў Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх, Храптовічаў і інш. створаны музейныя калекцыі, дзе былі і этнагр. матэрыялы. У 1-й пал. 19 ст. пачалі фарміравацца этнагр. калекцыі ў складзе прыватнаўласніцкіх збораў старажытнасцей. Матэрыялы па культуры і побы-

35. Зак. 566

ту беларусаў былі ў «кабінетах» М. Гаўсмана ў Мінску (1830—40-я г.), Тышкевічаў у в. Астрашыцкі Гарадок (сярэдзіна 19 ст.), зборы В. П. Федаровіча ў Віцебску (2-я пал. 19— пач. 20 ст.). У 1856 адкрыты *Віленскі музей старажытнасцей,* у якім было шмат экспанатаў з Беларусі. Першы на Беларусі музей, дзе быў створаны этнагр. аддзел,— *Магілёўскі музей.* Аснову аддзела склалі прылады працы, традыцыйнае адзенне, саматужныя вырабы, тканіны, хатняе начынне, транспартныя сродкі з дублетнага фонду прадметаў, сабраных у Магілёўскай губ. для антрапалагічнай выстаўкі ў 1879 у Маскве. У пач. 20 ст. ў Магілёве арганізаваны гісторыка-этнагр. музей пры Т-ве вывучэння Бел. краю (з 1913 Т-ва вывучэння Магілёўскай губ.). Найбольш буйныя этнагр. калекцыі ў даваенны перыяд зберагаліся ў Бел. дзярж. музеі ў Мінску, *Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі,* Пінскім музеі (цяпер Бел. дзярж. музей сацыялістычнага пераўтварэння Палесся), *Беларускім музеі* ў Вільні. Збіральніцтва этнагр. матэрыялаў у пасляваенны перыяд звязана з аднаўленнем і пашырэннем сеткі краязнаўчых музеяў, у рамках якіх пераважна і развіваліся этнагр. экспазіцыі да 1970-х г. Амаль ва ўсіх такіх музеях экспануюцца прадметы традыцыйна-бытавой культуры. Найбольш багата яны прадстаўлены ў *Дзяржаўным музеі Беларускай ССР.* У 1970—80-я г. створаны дзяржаўныя і грамадскія музеі этнагр. профілю і спецыяльныя этнагр. экспазіцыі ў комплексных і галіновых музеях. Найбольш значныя з іх *Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў, Музей старажытнабеларускай культуры, Раўбіцкі музей беларускага народнага мастацтва, Клецкі гісторыка-этнаграфічны музей, Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці, Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей, Дзіўнаўскі музей мастацтва і этнаграфіі, Крошынскі музей народнага мастацтва і рамёстваў.* Матэрыялы па культуры і побыту беларусаў экспануюцца ў Гісторыка-этнагр. музеі Літоўскай ССР (Вільнюс), Дзярж. музеі этнаграфіі і мастацкіх промыслаў АН УССР (Львоў), Украінскім дзярж. музеі нар. архітэктуры і побыту (Кіеў), Гіст. музеі ў Маскве, Музеі земляробства (мяст. Цэхановец Беластоцкага ваяводства, ПНР). Этнагр. калекцыі музеяў перыядычна папаўняюцца матэрыяламі з экспедыцый. На базе гэтага ўдасканальваюцца пастаянныя экспазіцыі, арганізуюцца этнагр. выстаўкі.

*С. А. Мілючэнкаў.*

**ЭТНАГРА́ФІЯ** (грэч. éthnos племя, народ + gráphō пішу), грамадская навука, якая вывучае народы-*этнасы* і іншыя этнічныя супольнасці, іх *этнагенез,* побыт, культурна-гістарычныя сувязі. Гл. ўступны нарыс.

**ЭТНАГРА́ФІЯ ДЗЯЦІ́НСТВА,** традыцыйныя формы выхавання дзяцей, іх побыт. Існавалі ва ўсе часы развіцця грамадства. Пры першабытнаабшчынным ладзе ролю выхавацеля выконваў род, пазней — сям'я. Бацькі стараліся перадаць дзецям традыцыі, жыццёвы вопыт, веды, уменне і інш. Менавіта ў сям'і дзіця рабіла першыя крокі ў жыцці, фарміравалася як асоба.

Першаасновай чалавечага жыцця нар. філасофія лічыла працу. Уменне чалавека працаваць, яго адносіны да працы з'яўляліся асноўнымі адзнакамі чалавечай годнасці. Па традыцыі ў сям'і дзецям даручалася работа, якая адпавядала іх узросту і сіле. У нераздзельнай сям'і, дзе было больш дарослых, дзеці пачыналі працаваць пазней, у малой — раней. Маці, бабуля, старэйшыя сёстры вучылі дзяўчынак «жаночай» справе (шыць, мыць, прасці, гатаваць ежу, працаваць у агародзе і інш.), бацька, дзед, старэйшыя мужчыны — хлапчукоў «мужчынскай» (касіць, араць і інш.). Асобнае месца ў жыцці дзяцей займалі гульні і *цацкі.* Яны садзейнічалі працоўнаму, фізічнаму, разумоваму развіццю дзяцей, умацоўвалі пачуццё дружбы, узаемадапамогі, адказнасці і інш. У выхаванні дзяцей вял. роля належала песням, лічылкам, загадкам, прыказкам, прымаўкам, у якіх адлюстроўвалася глыбокае разуменне жыцця, практычнасць, назіральнасць і інш. Па звычаю бацькі мелі права караць сваіх дзяцей. Кара магла быць славеснай у выглядзе пагроз, насмешак і інш. Мела месца і фізічнае пакаранне, аднак у выхаванні дзяцей гэта ніколі не лічылася асноўным. Нар. мудрасць сцвярджала: «калі не дапамагае кіў, то не дапаможа і кій». Дзеці павінны быць паслухмянымі, паважаць бацькоў і старэйшых, расці працалюбівымі. Яны ведалі сваё месца за сталом і як сябе паводзіць: не садзіцца першымі за стол, сядзець спакойна, не размаўляць, першымі не ўставаць з-за стала і інш. Паводле этыкету дзеці не павінны былі ўмешвацца ў размову старэйшых, не гуляць у шумныя гульні, не бегаць па хаце пры чужых людзях і г. д. Існавалі і нормы паводзін дзяцей у грамадстве (на людзях). Не апошняе месца ў выхаванні дзяцей мела адукацыя. У буржуазным грамадстве адукацыю, спецыяльнае выхаванне атрымлівалі пераважна выхадцы з пануючых класаў. У канцы 16 пач. 18 ст. на бел. землях быў пашыраны звычай аддаваць дзяцей шляхты на выхаванне ў сялянскую сям'ю (гл. *Дзядзькаванне).* Сялянскія дзеці з маленства былі арыентаваны на працу на зямлі. Хто меў магчымасць вучыцца, наведваў школу толькі ў зімовы час; з наступленнем вясны заняткі спыняліся. Не аднолькавай была ступень адукацыі паміж хлопчыкамі і дзяўчынкамі. На выхаванне, асабліва фізічнае, у значнай ступені ўплывалі бытавыя ўмовы сям'і: жыллё, ежа, адзенне і інш. У першыя гады жыцця ўсе клопаты аб дзіцяці ляжалі на плячах маці. У першыя месяцы ад нараджэння маці купала дзіця кожны дзень, затым 2—3 разы ў тыдзень. Тугое спавіванне працягвалася прыкладна да паўгода. Садзіць пачыналі ў 15—16 тыдняў. Прыкладна з 5—6 месяцаў ставілі ў стойку. Хадзіць вучыліся ў *хадунку.* Спала дзіця ў калысцы; дзесьці з 3 гадоў — на палку, разам з усімі дзецьмі. Мацярынскім малаком дзіця кармілі да двух, а часам і больш гадоў. Строгага рэжыму ў кармленні не прытрымліваліся. На 4—5-м месяцы дзіця пачыналі прыкармліваць (пераважна каровіна малако, разведзенае на першым часе вадою). Прыкормам служыла і сусла (звычайна хлебны мякіш, пержаваны з цукрам). Паўгадавалым дзецям давалі і кашу (часцей грэчневую, аўсяную). Ва ўзросце 3—4 гадоў дзеці елі за агульным сталом, сядзелі, як правіла, побач з маці. Спецыяльнага дзіцячага адзення не было, акрамя *мятліка* для немаўлят. Дзеці ў большасці насілі доўгую кашулю, аднолькавую для хлопчыкаў і дзяўчынак. Верхнім адзеннем служыла старая світка маці ці бацькі, зрэдку перашытая, якая перадавалася ад старэйшых дзяцей малодшым. Світку для дзяцей шылі звычайна толькі ў заможных сем'ях. Паясное адзенне надзявалі ў 8—9 гадоў. Абуткам служылі лапці, пераважна ўзімку. Упрыгожанні куплялі 15—16-гадовым дзяўчатам. Для малодшых імі служылі «маністы», «каралі» з пладоў шыпшыны, нанізаных на нітку, сплеценыя з саломкі пярсцёнкі, вяночкі з палявых кветак і інш.

Сучасная сям'я ў значнай ступені страціла сваю манаполію на выхаванне дзяцей. Узрасла роля грамадскага выхавання. Многія традыцыі і звычаі зніклі з побыту дзяцей. У гады перабудовы паступова ўзнаўляецца цікавасць да духоўнай спадчыны народа.

*Г. М. Курыловіч.*

**ЭТНАКУЛЬТУ́РНЫЯ ПРАЦЭ́СЫ,** змены ў культуры *этнасу,* састаўная частка этнічных працэсаў. Адбываюцца пад уздзеяннем развіцця гаспадаркі, вытворчых адносін, пад уплывам культур суседніх этнасаў, міграцый і сацыяльна-паліт. фактараў. Важнае гіст. значэнне мелі змены ў культуры насельніцтва на Беларусі ў познім сярэдневеччы, у прыватнасці ў 13—16 ст. У гэты час значна ўзмацніўся грамадскі падзел працы, хутка развівалася рамяство, пашыралася трохполле, паглыбілася сацыяльная дыферэнцыяцыя, канчаліваліся класы феадальнага грамадства — шляхта і залежныя сяляне. Тэр. Беларусі знаходзілася ў складзе Вял. кн. Літоўскага, потым — Рэчы Паспалітай. У гэтых дзяржавах усталёўваліся культурныя сувязі насельніцтва Беларусі з польскім і літоўскім этнасамі. У такіх гіст. умовах адбыліся істотныя змены ў культуры; узніклі новыя тыпы сельскіх паселішчаў — *аколіца, засценак, фальварак,* вулічная планіроўка вёскі, пашырыліся пагонныя тып забудовы сялянскага двара, новыя тыпы с.-г. прылад працы — т. зв. палеская (або літоўская) *саха* і саха-перакладка.

Паявіліся новыя музычныя інструменты — дуда, ліра, скрыпка, цымбалы, складаліся гіст. песні, балады. Найбольш значныя змены ў познім сярэдневеччы адбыліся ў гутарковай мове насельніцтва Беларусі, асабліва ў яе фанетыцы. Гукі р, ч, ж і інш. сталі на большай частцы тэр. Беларусі вымаўляцца цвёрда. Характэрнай новай рысай кансанантызму стала таксама дзеканне, а вакалізму — аканне. Мясцовым насельніцтвам частка слоў была запазычана з польскай (будаваць, склеп, засцепак, гарнец, хустка, скарга і інш.) і літоўскай (свіран, пуня, клуня, ёўня і інш.) моў. Змены ў культуры і мове насельніцтва Беларусі былі настолькі значнымі, што ў гэты час сфарміраваўся новы комплекс традыцыйнай культуры і новая сістэма мовы, якія адлюстроўвалі трансфармацыю стараж.-рускага этнасу на Беларусі ў новы этнас — беларускі. Э. п. таго часу — важная частка ўтварэння бел. этнасу.

У 17—18 ст. на Беларусі пашырылася бел.-польскае двухмоў'е. Польскай мовай карысталіся пераважна бел. феадалы, якія пераймалі культуру польскай шляхты. Больш цесныя сувязі бел. і польскага этнасаў у складзе Рэчы Паспалітай абумовілі тое, што польскую мову ведала і іншы раз карысталася ёю і частка бел. сялянства. Пад уздзеяннем польскай шляхты, польскай дзяржавы ў 17—18 ст. адбыліся змены і ў рэлігіі бел. этнасу. Сярод яго часткова пашырыўся каталіцызм — зах.-еўрап. разнавіднасць *хрысціянства.* Каталіцкую веру прымалі спачатку пераважна бел. феадалы, затым пад іх уплывам і частка бел. сялян. Гэты працэс у большай ступені характэрны для зах. часткі Беларусі, суседняй з Польшчай і этнагр. Літвой.

Інтэнсіўныя Э. п. адбываліся на Беларусі ў канцы 18—19 і пач. 20 ст. Іх характар вызначалі знаходжанне Беларусі ў гэты перыяд у складзе Расіі, зараджэнне і развіццё капіталізму, фарміраванне бел. буржуазнай нацыі. Пад уздзеяннем капіталізму змянялася культура і побыт гарадскога і сельскага насельніцтва. У гарадах былі ўзведзены буйныя фабрыкі і заводы. У сельскай мясцовасці паявілялася колькасць *хутароў*, пашырыўся новы тып сялянскай сядзібы — двор з нязвязанымі пабудовамі, трохкамернае жыллё, якое складалася з хаты, сянец і трэцяга памяшкання (клець і інш.). У паслярэформенны перыяд печ з дымаходам («белая») выцесніла курную печ, а ў заможных сялян паявіліся новыя тыпы мэблі — канапы, крэслы і інш. Пад уплывам рускай культуры на Беларусі пашырыліся такія музычныя інструменты, як балалайка, гармонік. У паўд. раёнах Беларусі пад уплывам укр. культуры ўзнікла шматгалосае спяванне. У гарадах і вёсках сталі выконваць новыя танцы — полькі, кадрылі і інш. Адбыліся змены і ў вуснай нар. творчасці бел. этнасу. Папулярным жанрам бел. фальклору стала прыпеўка, пашырыліся рэвалюцыйныя песні, важнае значэнне набыла рус. мова.

Характар Э. п. на Беларусі ў наш час вызначылі новыя прагрэсіўныя гіст. фактары — утварэнне бел. сацыялістычнай дзяржавы, будаўніцтва і развіццё сацыялізму, фарміраванне і развіццё бел. сацыялістычнай нацыі. На аснове інтэнсіўнага росту грамадскага падзелу працы, хуткага развіцця прамысловасці рэканструяваны старыя і пабудаваны новыя гарады. Характэрнымі рысамі гарадоў сталі шырокія вуліцы, вял. плошчы, шматпавярховыя будынкі. Стварэнне і развіццё калектыўных гаспадарак — асноўная прычына змен аблічча сельскіх паселішчаў. Зніклі аколіцы, засценкі, большасць хутароў. Вёскі павялічыліся ў памерах. Часта вытворчыя будынкі калгасаў і саўгасаў размешчаны ў асобнай зоне, аддзеленай ад жылой. У жылой зоне вызначаецца цэнтр з адміністрацыйнымі будынкамі, клубам, школай, дзіцячым садам, поштай і інш. Змянілася сялянская сядзіба. У ёй зніклі многія гаспадарчыя пабудовы (гумны, пуні, стайні і інш.). Новае аблічча набыло жыллё. Яго тыповымі часткамі сталі ганак, веранда. Жыллё звычайна ўпрыгожваюць шалёўкай, разьбой. Шырока ўжываюцца такія музычныя інструменты, як баян, акардэон, створана многа аркестраў нар. інструментаў, пашырылася шматгалосае спяванне, узбагацілася нар. песня, новыя мастацкія рысы набыла прыпеўка, разнастайнай стала яе рытміка і метрыка, створаны новыя паданні, казкі, прыказкі і прымаўкі. Поўнасцю ліквідавана непісьменнасць, значна ўзрос адукацыйны ўзровень насельніцтва, узмацнілася роля бел. прафесійнай культуры, з'явіліся новыя святы. На Беларусі пашырылася бел.-рускае двухмоў'е. Культура бел. этнасу інтэнсіўна папаўняецца элементамі культуры інш. сав. этнасаў. Развіццё этнакультурных сувязей беларусаў з інш. сав. этнасамі — адна з умоў паспяховага, прагрэсіўнага развіцця сучаснай бел. сацыялістычнай нацыі, важны фактар Э. п. на Беларусі на сучасным этапе.

*М. Ф. Піліпенка.*

**ЭТНАЛО́ГІЯ** (грэч. éthnos племя, народ+lógos вучэнне), адна з назваў *этнаграфіі.* Ужываецца пераважна ў замежнай навуковай літаратуры ў значэнні тэарэтычнай этнаграфіі, якая буржуазнай навукай процістаўляецца апісальнай этнаграфіі. У сав. навуковай літаратуры тэрмін «Э.» ўжываецца рэдка і выкарыстоўваецца ў якасці сіноніма этнаграфіі як адзінай навукі — тэарэтычнай і апісальнай. *М. Ф. Піліпенка.*

**ЭТНАПСІХАЛО́ГІЯ,** навуковая дысцыпліна на стыку этнаграфіі, сацыяльнай і агульнай псіхалогіі; даследуе асаблівасці псіхічнага складу і паводзін людзей, абумоўленыя іх этнічнай прыналежнасцю. Да прадметнай вобласці Э. адносяцца псіхалагічныя праблемы міжэтнічнага ўспрымання, зносін і ўзаемадзеяння, нацыянальнай свядомасці і самасвядомасці, асаблівасці сацыялізацыі асобы, каштоўнасных арыентацый, установак, псіхалогіі міжэтнічных адносін і інш. Аб'ект Э.— асоба, якая належыць да пэўнай этнічнай адзінкі, а таксама асобныя этнічныя супольнасці.

Як навука Э. ўзнікла ў 2-й пал. 19 ст. Пачатак замежнай Э. пакладзены працамі па псіхалогіі народаў М. Лацаруса, Х. Штэйнталя, Г. Лебона, В. Вунта. У 1920—30-я г. ў ЗША заснавана этнапсіхалагічная школа, якая грунтавалася на канцэпцыях неафрэйдызму (Р. Бенедыкт, М. Мід, Р. Грогер і інш.), культурнай антрапалогіі (Ф. Боас). Для сучаснай замежнай Э. характэрны шырокі дыяпазон кірункаў і тэматыкі даследаванняў.

У айчынным грамадазнаўстве этнапсіхалагічная тэматыка распрацоўвалася ў даследаваннях В. В. Ключэўскага, П. Л. Лаўрова, М. К. Міхайлоўскага, у савецкі перыяд — у працах Л. С. Выгоцкага, А. Р. Лурыя, Я. Я. Рагінскага, С. П. Талстова. З пач. 1970-х г. з развіццём *этнасацыялогіі* і сацыяльнай псіхалогіі даследуюцца міжнацыянальныя адносіны, этнакультурныя арыентацыі, этнічныя стэрэатыпы, распрацоўваюцца пытанні метадычнага забеспячэння Э. У БССР асобныя пытанні, якія закранаюць сферу Э., вывучаліся ў кантэксце сацыялагічных даследаванняў ладу жыцця, грамадскага побыту (праводзіліся аддзелам этнаграфіі ІМЭФ АН БССР у 1970—80-я г.).

*Л. І. Навуменка, П. У. Церашковіч.*

**Э́ТНАС,** этнічная супольнасць (ад грэч. éthnos племя, народ), устойлівая супольнасць людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай тэрыторыі і характарызуецца агульнасцю мовы, побыту, культуры, рысаў псіхікі і самасвядомасці, адлюстраванай у адзінай назве і ўяўленнях пра агульнасць паходжання. Э. — асноўнае паняцце *этнаграфіі.* У Расіі ўжываецца з пач. 20 ст. ў якасці збіральнага паняцця для вызначэння розных этнічных супольнасцей — *племя, народнасці, нацыі;* з 1960-х г. пашырылася ў сав. этнагр. (працы С. А. Токарава, М. М. Чабаксарава, Ю. У. Брамлея і інш.) і грамадска-паліт. літаратуры.

Асноўныя гіст. формы Э.— племя, народнасць, нацыя — характарызуюцца і пэўнымі сацыяльна-эканам. асаблівасцямі (напр., беларускі Э. узнік у 14—16 ст. у форме феадальнай народнасці, прайшоў стадыю развіцця буржуазнай нацыі і цяпер развіваецца як сацыялістычная нацыя). Галоўныя этнічныя прыкметы Э. (мова, самасвядомасць, культура, побыт, псіхіка і інш.) змяняюцца з цягам часу не так істотна, як сацыяльна-эканам. адносіны, якія адпавядаюць пэўнай гіст. ступені развіцця (першабытнасці, рабаўладальніцтву, феадалізму і г. д). Таму пры неабходнасці ў этнагр. літаратуры размяжоўваюцца паняцці этнасацыяльнага арганізма як пэўнай стадыі развіцця Э. (ха-

рактарызуецца адзінствам тэрыторыі, цэласнасцю і кампактнасцю рассялення насельніцтва, агульнымі сацыяльна-еканам. і паліт. адносінамі, адзінствам асноўных этнічных прыкмет) і этнікосу як Э. ўвогуле. Напр., на землях Беларусі ў перыяд 1920—39 існавалі два самастойныя этнасацыяльныя арганізмы — бел. сацыялістычная нацыя ў межах БССР і бел. буржуазная нацыя ў межах буржуазнай Польшчы, якія разам складалі адзін бел. этнікос. У сучаснай практыцы слова «этнікос» часта замяняецца паняццем нацыянальнасць; у этнічным сэнсе яны аб'ядноўваюць групы аднаго Э., што існуюць дысперсна (напр., цыганы), а таксама асобных прадстаўнікоў і экстэрытарыяльныя этнічныя групы з ядром Э.— этнасацыяльным арганізмам (напр., беларусаў БССР з беларусамі, што жывуць у РСФСР, УССР, Літ. ССР, ПНР, Канадзе, Аргенціне і інш.). На паняцці Э. грунтуецца значная частка этнагр. і інш. навуковай тэрміналогіі (этналогія, этнагеаграфія, этналінгвістыка, этнагенез, этнонім, этнічная тэрыторыя, міжэтнічныя сувязі і інш.). Пры этнічнай класіфікацыі чалавецтва Э. выступае як асноўная сістэмаўтваральная адзінка. *І. У. Чаквін.*

**ЭТНАСАЦЫЯЛО́ГІЯ,** навуковая дысцыпліна, якая даследуе этнічныя працэсы ў розных сацыяльных групах і сацыяльныя працэсы ў розных нацыянальных асяроддзях і рэгіёнах; на стыку этнаграфіі і сацыялогіі. Як навуковая дысцыпліна ў СССР пачала фарміравацца ў 1960-я г. Аб'ект Э.— рэгіянальныя асаблівасці сацыяльнай структуры насельніцтва, сацыяльна значныя з'явы ў побыце і культуры людзей рознай нацыянальнасці, сацыяльная абумоўленасць змен у культуры, мове, нацыянальных арыентацыях, сацыяльная датэрмінаванасць этнічнай самасвядомасці, міжнацыянальных адносін і інш. Крыніцамі этнасацыялагічных даследаванняў з'яўляюцца дзелавая дакументацыя (дзярж. статыстычны ўлік, справаздачы ўстаноў, пагаспадарчыя кнігі, фармуляры шлюбаў, разводаў і інш.) і масавая пярвічная інфармацыя на аснове рэпрэзентатыўных анкетных абследаванняў насельніцтва. Канкрэтны аналіз праблем у Э. праводзіцца як з улікам макраасяроддзя (агульных сацыяльна-паліт. умоў у краіне), так і з разглядам рэальных узроўняў мікраасяроддзя (асаблівасці этнічнай і сацыяльна-культурнай сітуацыі ў гарадах і вёсках, вытворчых калектывах, сем'ях і інш.). Практычнае значэнне Э. вызначаецца тым, што ў распараджэнні даследчыкаў ёсць колькасна дакладныя параметры вывучаемых з'яў, матэматычны аналіз якіх дазваляе рабіць навукова абгрунтаваныя прагнозы нацыянальных аспектаў сучасных сацыяльных працэсаў. У дадатак да традыцыйных этнагр. метадаў Э. прадугледжвае выкарыстанне навуковых метадык, распрацаваных у сацыялогіі, статыстыцы, псіхалогіі. Вопыт прыкладной сацыялогіі выкарыстоўваецца ў час збору і апрацоўкі інфармацыі (метады праверкі надзейнасці пярвічнай масавай інфармацыі, статыстыка-матэматычнай апрацоўкі і выкарыстання ЭВМ, кантэнт-аналіз). Распаўсюджваюцца метады фармалізацыі, тыпалагізацыі, квантыфікацыі і мадэліравання. Прымяненне выбарачнага метаду даследавання насельніцтва дае магчымасць даследаваць шматгранласць этнічных працэсаў у маштабах усёй краіны, абапіраючыся на даныя, якія атрымваны на параўнаўча невялікай колькасці аб'ектаў.

У БССР этнасацыялагічныя даследаванні праводзяцца з пачатку 1970-х г. Вывучаюцца пытанні духоўнай культуры і грамадскі побыт розных этнасацыяльных груп гарадскога і сельскага насельніцтва рэспублікі, этнічныя аспекты міграцый, сям'і, сямейныя адносіны і інш. Найбольш актуальнымі праблемамі сучаснай Э з'яўляюцца ўсесаюзная уніфікацыя праграм па асноўных даследчых напрамках, больш поўнае і кваліфікаванае выкарыстанне колькасных метадаў і матэматычных прыёмаў аналізу масавых матэрыялаў, удасканаленне сістэмнага падыходу ў вывучэнні этнасацыяльных працэсаў. *В. М. Белявіна.*

**ЭТНІ́ЧНАЯ ГРУ́ПА,** група прадстаўнікоў пэўнага народа (частка этнасу), якая пражывае па-за межамі яго *этнічнай тэрыторыі.* Адрозніваецца ўласнай моваЙ, культурай, побытам, самасвядомасцю, рэлігіяй, радзей і антрапалагічным тыпам. Часам у выніку асіміляцыі з боку дамінуючага этнасу прадстаўнікі Э. г. паступова страчваюць свае этнічныя прыкметы або захоўваюць іх часткова.

Узнікненне Э. г. звязана з рассяленнем асобных груп этнасу на далёкія адлегласці ад сваёй тэрыторыі (яўрэі, цыганс), а таксама з несупадзеннем этнічных і дзяржаўных межаў, калі перыферыйныя часткі пэўнага народа на этнічным памежжы трапляюць у склад суседняга этнасу (дзяржавы). Кампактныя або дысперсныя Э. г. могуць рассяляцца і далёка ад уласнага этнасу. Напрыклад, беларусы ўтвараюць даволі кампактныя Э. г. ў памежных і больш аддаленых абласцях сучасных этнічных тэрыторый рускіх (на Смаленшчыне, Браншчыне, Пскоўшчыне), украінцаў (на Чарнігаўшчыне, Жытоміршчыне), літоўцаў (у раёнах Вільнюса, Тракая), латышоў (у раёнах Даўгаўпілса, Краславы, Рыгі), палякаў (на Падляшшы і Беласточчыне). Рассяліўшыся па розных краінах свету, беларусы разам з англічанамі, ірландцамі, французамі, рускімі складаюць насельніцтва шматнацыянальных дзяржаў ЗША, Канады, Аўстраліі і інш. У сваю чаргу на Беларусі жывуць Э. г. рускіх, украінцаў, літоўцаў, палякаў, татараў і інш. У даволі рэдкіх выпадках Э. г. ўзнікае ў выніку этнаўтваральных працэсаў у межах асобных лакальна-тэрытарыяльных субэтнічных груп, як гэта адбылося ў эпоху феадалізму на землях Палесся. Мясцовае насельніцтва — *палешукі* — адрознівалася ад суседзяў (беларусаў, украінцаў і палякаў) асаблівасцямі мовы, традыцыйным побытам і самасвядомасцю, але ў перыяд капіталізму і пазней было кансалідавана ў складзе беларускай, украінскай і часткова польскай нацый. У мінулым Э. г. былі асуджаны на асіміляцыю (часам прымусовую) і паступовае зліццё з асноўным па колькасці этнасам. У наш час палітыка многіх дзяржаў, у т. л. СССР, накіравана на захаванне этнакультурных і лінгвістычных асаблівасцей Э. г., якія ў некаторых выпадках замацоўваюцца ўтварэннем адміністрацыйна-тэрытарыяльнай аўтаноміі. *І. У. Чаквін.*

**ЭТНІ́ЧНАЯ ДЭМАГРА́ФІЯ,** навуковая дысцыпліна на стыку *этнаграфіі* і *дэмаграфіі,* якая вывучае народы (нацыянальны склад пэўнага рэгіёна, краіны), асаблівасці іх узнаўлення і дынаміку колькасці.

**ЭТНІ́ЧНАЯ САМАСВЯДО́МАСЦЬ,** усведамленне людзьмі сваёй прыналежнасці да пэўнага народа (этнасу), адна з асноўных *этнічных прыкмет.* Э. с.— вынік аб'яднальных этнаўтваральных працэсаў; фарміруецца яна на аснове агульнага (рэальнага ці легендарнага) паходжання людзей, падабенства іх мовы, культуры, гістарычнага лёсу. Узрастае па меры актывізацыі працэсу этнічнай кансалідацыі, распаўсюджання і замацавання агульнага этноніма-саманазвы ў выніку ўмацнення этнасацыяльных сувязей паміж рознымі тэрытарыяльнымі, саслоўна сацыяльнымі і канфесіянальнымі групамі этнасу.

На розных гіст. стадыях развіцця *беларусаў* Э. с. праяўлялася неаднолькава. У эпоху першабытнасці Э. с. тагачасных кроўна-сваяцкіх і этнасацыяльных супольнасцей звычайна звязвалася з агульнасцю паходжання ад аднаго міфічнага продка, які часта быў і татэмам, а таксама з адзінствам мовы, этнічнай тэрыторыі, ладу жыцця, звычаяў і абрадаў. Саманазва часам адсутнічала або існавала ў невыразнай форме: дрыгавічы — жыхары балот, драўляне — жыхары лясоў, паляне — жыхары палёў. Э. с. этнасацыяльных супольнасцей раннякласавых рабаўладальніцкіх і феадальных грамадстваў — народнасцей — была шматзначнай. Іх прадстаўнікі ўсведамлялі сваю прыналежнасць да пэўнай лакальна-тэрытарыяльнай, субэтнічнай, часам былой племяннай групы, а таксама дзяржавы (княства, царства, рэспублікі). У выніку працэсу этнапалітычнай кансалідацыі былыя племянныя, саюзаплеменныя, лакальна-тэрытарыяльныя саманазвы зніклі або існавалі разам з агульным палітонімам, які паступова ператвараўся ў этнонім. Напр., у старажытнарускі час на Беларусі і інш. усх.-слав. землях русічамі (русінамі) называліся падданыя дынастыі рускіх князёў Рурыкавічаў (палачане, пскаві-

чы, наўгародцы, смаляне, валыняне і інш.). У эпоху феадалізму прадстаўнікі розных саслоўяў усведамлялі сваю прыналежнасць па-рознаму. Э. с. пануючых класаў часта замянялася саслоўнай самасвядомасцю (шляхецкі народ), у простага люду — лакальнатэрытарыяльнай (палешукі), зямляцкай (тураўцы, берасцяне), т. зв. этнацэнтрычнай (тутэйшыя, тубыльцы), канфесіянальнай (праваслаўныя людзі, католікі). Этнічную роднасць саслоўнаі канфесіянальна-дыферэнцыраваных груп адной этнічнай супольнасці ўсведамлялі толькі асобныя дзеячы культуры і асветы — Ф. Скарына, В. Цяпінскі, М. Сматрыцкі, Сімяон Полацкі і інш. Узмацненне Э. с. ў эпоху капіталізму, а пазней і сацыялізму звычайна суправаджаецца зараджэннем і актыўным развіццём нацыянальнай культуры — літаратуры на нацыянальнай мове, прафесійнага мастацтва, гіст., этнагр., фалькларыстычнай, мастацтвазнаўчай навукі. Паралельна ў штодзённым жыцці людзі ўсведамляюць асаблівасці свайго народа, яго мовы, культуры, псіхалогіі, гіст. лёсу; фарміруюцца пэўныя этнічныя стэрэатыпы паводзін і адносін да інш. народаў. Э. с. цесна звязана з пачуццём патрыятызму, нацыянальнага гонару, любові да роднага народа і радзімы. *І. У. Чаквін.*

**ЭТНІЧНАЯ СУПО́ЛЬНАСЦЬ,** устойлівая супольнасць людзей; тое, што і *этнас.*

**ЭТНІ́ЧНАЯ ТЭРЫТО́РЫЯ,** тэрыторыя кампактнага рассялення пэўнага народа (этнасу), з якой цесна звязаны яго *этнагенез* і этнічная гісторыя. Вызначаецца ўстойлівасцю на працягу многіх стагоддзяў. Уласцівае кожнай Э. т. геагр. асяроддзе — гэта не толькі сфера пражывання, але і жыццёвая аснова, што абумоўлівае спецыфіку гаспадарчых заняткаў і вытворчай культуры, арганічна ўваходзіць у паўсядзённы побыт, жывіць канкрэтнымі вобразамі духоўныя скарбы народа, яго мову і фальклор. У працэсе жыццядзейнасці чалавек мяняе аблічча акаляючага прыроднага асяроддзя, надаючы яму характар культурнага ландшафту, а родны край (бацькаўшчына) становіцца для яго, як і для народа ў цэлым, гістарычнай спадчынай.

Вызначэнне Э. т. і яе межаў належыць да ліку складаных навуковых праблем і патрабуе ўсебаковага этнагеагр. аналізу і ўліку комплексу этнавызначальных прыкмет — мясцовых гаворак, нацыянальнай самасвядомасці, традыцый духоўнай і матэрыяльнай культуры, гіст. перадумоў і інш. (перавагу аддаюць звычайна першым двум). У некаторых выпадках этнічныя межы могуць супадаць з прыроднымі рубяжамі (гарамі, водападзеламі, рэдканаселенымі лясными масівамі, воднымі перашкодамі), аднак звычайна этнічнае сумежжа ўяўляе сабой зону супольнага пражывання суседніх народаў, этна-



культурныя элементы якіх пастаянна ўзаемадзейнічаюць, утвараючы пераходны (міжэтнічны) варыянт нар. культуры. Э. т. можа змяняцца ў выніку гіст. катаклізмаў, каланізацыі, міграцыйнага руху, асіміляцыі і інтэграцыі, якія найбольш уласцівы перыферыйным зонам супольнага пражывання суседніх народаў. Стабільнасць Э. т. залежыць таксама ад яе дзярж. самастойнасці і ўмоў міжнар. жыцця. Нярэдкія выпадкі, калі Э. т. народа ўваходзіць у склад дзвюх і болей дзяржаў.

Э. т. беларусаў у розныя часы акрэслівалася неадназначна. Становішча ўскладнялася гіст. ўмовамі, уваходжаннем Э. т. беларусаў у поліэтнічныя дзяржавы, зменлівай этнапаліт. і этнаканфесіянальнай сітуацыяй. У складзе Рэчы Паспалітай сама назва Беларусь (Белая Русь) ужывалася як абласная (правінцыяльная) для абазначэння верхняга Падзвіння і Падняпроўя: рэгіён Панямоння называлі ў той час Чорнай Руссю або Літвой, а паўд. частку сучаснай тэрыторыі — Палессем. На гіст. карце Польшчы 1740 Т. Кітчына тэр. сучаснай Беларусі пазначалася пад назвай Літоўская Русь. На карце 1750 Т. Майера ўпершыню Белай Руссю названа амаль уся сучасная тэрыторыя ад Зах. Буга на Пд ад Брэста да верхняга Падзвіння (Палессе тут паказана як састаўная частка Белай Русі). Пасля далучэння да Расіі Беларусь у афіцыйных дакументах сталі называць Заходняй Руссю, Заходнім ці Паўночна-Заходнім краем (назва Беларусь ужывалася пераважна для Віцебскай і Магілёўскай губ.). Аднак у 2-й пал. 19 ст. па меры накаплення і асэнсавання канкрэтнага фальклорна-этнагр. матэрыялу выявілася нар. адзінства на ўсёй сучаснай тэр. Беларусі, а сама назва стала ўсё часцей ужывацца і для суседніх Мінскай, Гродзенскай, часткі Віцебскай і Смаленскай губ. Згодна этнагр. атласу 1863 Р. Ф. Эркерта, Э. т. беларусаў акрэслівалася ў межах Магілёўскай, Віцебскай (без ліфляндскіх пав.), часткі Віленскай (па лініі Ашмяны — на Пн ад Ліды) і Гродзенскай губ. Эркерт падзяляў тэр. Беларусі на 3 часткі: усходнюю (да Бярэзіны), заходнюю і паўднёва-заходнюю, або Падляссе, а бел. насельніцтва гэтых рэгіёнаў утварала, на яго думку, адпаведна 3 групы: сапраўдных беларусаў, заходніх беларусаў, або чарнарусаў, і падляшан (найбольш апалячанай часткі беларусаў). Атлас 1864 А. Ф. Рыціха і складзеная ім «Этнаграфічная карта Еўрапейскай Расіі» (1875) наступным чынам акрэслівалі тэрыторыю рассялення беларусаў: на З і Пд ад Сувалак (на З ад Беластока) і далей па рэках Нараў, Ясельда, Прыпяць да яе ўпадзення ў Дняпро, на Пн і У — паўночней Вільні, далей на Свянцяны, Люцын, Вялікія Лукі, на З ад Вязьмы і Мгліна, далей па Дняпру да вусця Прыпяці. Пры этнічнай дыферэнцыяцыі насельніцтва (асабліва беларусаў і палякаў) Эркерт і Рыціх зыходзілі найперш з канфесіянальнай прыналежнасці. Я. Ф. Карскі, М. В. Доўнар-Запольскі, а таксама члены Маскоўскай Дыялекталагічнай Камісіі пры складанні адпаведных карт (1903, 1919, 1915) кіраваліся этналінгвістычнымі прыкметамі і пашыралі Э. т. беларусаў на правабярэжжа Прыпяці, а на У да Ржэва і Бранска.

Тэр. Беларускай ССР фарміравалася на аснове Э. т. ў складаных гіст. і міжнар. умовах. У выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь атрымала сваю дзяржаўнасць (1.1.1919). У склад БССР увайшлі Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская губ., бел. паветы Віленскай і Ковенскай губ. і зах. паветы Смаленскай губ. Аднак з узмацненнем міжнар. напружання БССР у складзе Мінскай і Гродзенскай губ. была аб'яднана з Літ. ССР у адзіную рэспубліку; Магілёўская, Віцебская і Смаленская губ. былі далучаны да РСФСР. Пасля вызвалення часткі Беларусі ад палякаў БССР была адноўлена ў складзе 6 паветаў Мінскай губ. (52,3 тыс. км²); Зах. Беларусь па лініі Верхнядзвінск — Негарэлае — на З ад Турава паводле Рыжскага мірнага дагавора (сакавік 1921) адышла да Польшчы. У 1924 у склад БССР увайшлі 15 паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губ., а ў 1926 — Рэчыцкі і Гомельскі пав., населеныя пераважна беларусамі. Тэр. Беларусі склала 125,8 тыс. км². У верасні 1939 Зах. Беларусь была ўз'яднана з БССР, а пазней г. Вільня з прылягаючай тэрыторыяй і частка прыгранічных раёнаў БССР перайшлі да Літвы. Пасля Вял. Айч. вайны ў жніўні 1945 ПНР былі перададзены 17 раёнаў Беластоцкай і 3 раёны Брэсцкай абл. Сучасная тэрыторыя БССР складае 207,6 тыс. км². *В. С. Цітоў.*

**ЭТНІ́ЧНЫЯ ПРАЦЭ́СЫ,** сукупнасць усіх змяненняў *этнасу* або яго асобных частак; адна з асноўных катэгорый сучаснай этнаграфічнай навукі. Падзяляюцца на трансфармацыйныя і эвалюцыйныя, аб'яднальныя і раз'яднальныя. Да трансфармацыйных адносяцца працэсы, у выніку якіх адбываецца змена *этнічнай самасвядомасці* і, адпаведна, этнічнай прыналежнасці пэўных груп людзей. Усе астатнія працэсы, развіццё якіх не закранае цэласнасці этнічнай сістэмы, — этнаэвалюцыйныя. Аб'яднальныя Э. п. ўключаюць працэсы *кансалідацыі, асіміляцыі, інтэграцыі* і *міксацыі*, раз'яднальныя — сепарацыі і парцыяцыі (гл. ў арт. *Дывергенцыя).* Аб'яднальныя Э. п. могуць мець як трансфармацыйны (этнагенетычная кансалідацыя і міксацыя), так і эвалюцыйны (унутрыэтнічная кансалідацыя, міжэтнічная інтэграцыя) характар, раз'яднальныя працэсы — пераважна трансфармацыйныя. Пры гэтым этнічная асіміляцыя можа быць адначасова і трансфармацыйнай (для асімілявапага этнасу), і эвалюцыйнай (для этнасу, які асімілюе). Характар, тэмпы і асаблівасці развіцця Э. п. залежаць ад комплексу разнастайных фактараў. На дынаміку этнічнага развіцця народаў у найбольшай ступені ўплываюць пазаэтнічныя фактары — сацыяльна-эканамічныя, дзярж., палітычныя, канфесіянальныя, дэмаграфічныя, тэрытарыяльныя, прыродна-геаграфічныя і г. д. Уздзеянне ўласна этнічных фактараў — этнічнай сітуацыі, моўнай і культурна-бытавой роднасці этнасаў, наяўнасці этнічных стэрэатыпаў — найбольш адчувальна ў развіцці працэсаў міжэтнічнай інтэграцыі, асіміляцыі, міксацыі. Спалучэнне пэўных фактараў вызначае і своеасаблівасць развіцця канкрэтных Э. п. Напрыклад, на Беларусі ў эпоху капіталізму такі комплекс фактараў, як адносна нізкі ўзровень эканам. развіцця, няпоўная сацыяльная структура бел. этнасу, яго канфесіянальная раз'яднанасць у спалучэнні з русіфікатарскай царскай палітыкай і такой асаблівасцю этнічнай сітуацыі, як вялікая колькасць іншаэтнічнага насельніцтва ў гарадах, абумовіў марудныя тэмпы нацыянальнай кансалідацыі, якая ў дарэвалюцыйную эпоху не завяршылася.

Э. п. — неад'емная частка этнасацыяльных працэсаў — працэсаў развіцця канкрэтных этнасацыяльных арганізмаў (нацый, народнасцей і г. д.). У сав. грамадазнаўстве і асабліва на ўзроўні масавай свядомасці ўсе Э. п. сучаснай эпохі, у т. л. працэсы развіцця ўласна нацыянальных супольнасцей, разглядаюцца як нацыянальныя працэсы.

*Ц. У. Церашковіч.*

**ЭТНІ́ЧНЫЯ ПРЫКМЕ́ТЫ,** комплекс характэрных прыкмет, якія адрозніваюць пэўны народ і яго асобныя этнічныя групы ад іншых этнасаў і забяспечваюць яго адзінства і стабільнасць развіцця. Уключаюць мову, традыцыйную культуру, побыт, асаблівасці псіхалогіі і антрапалагічнага тыпу, агульнасць веравызнання і абавязкова этнічную самасвядомасць — усведамленне агульнасці паходжання і выкарыстанне агульнай саманазвы (этноніма). У некаторых народаў асобныя Э. п. не з'яўляюцца спецыфічнымі (напрыклад, на англійскай мове гаворадь англічане, амерыканцы ЗША, аўстралійцы і інш.), таму своеасаблівасць кожнага этнасу абумоўлена іменна комплексам Э. п., адны з якіх выконваюць этнадыферэнцыруючую, а іншыя — этнаінтэгруючую ролю. На сучасным этапе развіцця ў беларусаў, рускіх, украінцаў, літоўцаў і інш. народаў СССР склаліся агульныя ці падобныя элементы культуры і побыту, аднак гэтыя ж народы па-ранейшаму адрозніваюцца самасвядомасцю, мовай, асаблівасцямі традыцыйнай культуры, псіхалогіі і іншымі Э. п. Акрамя комплексу Э. п., этнічныя супольнасці характарызуюцца таксама і комплексам этнасацыяльных прыкмет, якія адлюстроўваюць сацыяльна-эканам. адносіны ў межах этнасу, яго сацыяльную структуру, характар рассялення насельніцтва на пэўнай тэрыторыі, ступень эндаі экзагамнасці, узровень развіцця інфармацыйных сувязей і г. д. Складванне агульных ці падобных этнасацыяльных

прыкмет часам прыводзіць да нівеліроўкі некаторых Э. п. (матэрыяльнай культуры, побыту), аднак гэты працэс звычайна не закранае самасвядомасці, мовы, традыцыйнай культуры, якія застаюцца этнавызначальнымі.

*І. У. Чаквін.*

**«ЭТНОГРАФИ́ЧЕСКОЕ ОБОЗРЕ́НИЕ»**, першы рускі этнаграфічны часопіс. Выдаваўся ў Маскве ў 1889—1916 этнагр. аддзелам Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це. Выходзіў 4 разы на год пад рэдакцыяй Дз. М. Анучына, У. Ф. Мілера, М. А. Янчука. Асвятляў пытанні этнаграфіі і фальклору народаў Расіі: вераванні, звычаі, абрады і побыт, народна-паэтычную творчасць і музыку, нар. медыцыну. У асвятленні этнаграфіі Беларусі значная роля належала Янчуку. Ён рыхтаваў і рассылаў этнагр. праграмы, перапісваўся з бел. этнографамі і фалькларыстамі, памагаў ім у публікацыі матэрыялаў. У «Э. о.» супрацоўнічалі У. К. Арсеньеў, А. Я. Багдановіч, Ф. І. Буслаеў, А. М. Весялоўскі, Дз. К. Зяленін, Р. М. Патанін, А. М. Пыпін, М. М. і В. М. Харузіны і інш. Надрукаваны працы Е. Р. Раманава «Нарыс побыту жабракоў Магілёўскай губерні і іх умоўная мова» (1890, № 4), Я. А. Ляцкага «Уяўленне беларуса пра нячыстую сілу» (1890, № 4), «Хвароба і смерць па ўяўленнях беларусаў» (1892, № 2—3), «Да пытання аб замовах ад трасцы» (1893, № 4), М. В. Доўнар-Запольскага «Жаночая доля ў песнях пінчукоў» (1891, № 2), «Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках» (1893, № 1, 2, 4), «Нарысы звычаёвага сямейнага права сялян Мінскай губерні» (1897, № 1—2), М. Я. Нікіфароўскага «Нарысы Віцебскай Беларусі» (ч. 1—8, 1892, № 1—3; 1893, № 2; 1894, № 1; 1896, № 4; 1897, № 3; 1898, № 2; 1899, № 1—2), нататкі У. М. Дабравольскага «Значэнне народнага свята свечкі» (1900, № 4), «Забабоны адносна ваўкоў» (1901, № 4), «Насякомыя і чарвякі ў народным жыцці» (1901, № 2), «Кросны» (1902, № 1), артыкулы Янчука, а таксама нарысы і рэцэнзіі, успаміны П. В. Шэйна пра нямецкага этнографа В. Мангарта і інш. *Г. А. Пятроўская.*

**ЭТНО́НІМЫ** (грэч. éthnos племя, народ + ónyma імя), назвы народаў, саманазвы, імёны. Грунтуюцца на агульнай этнічнай самасвядомасці прадстаўнікоў *этнасу*, якія вылучаюць сябе сярод іншых этнасаў-народаў паводле антытэзы «мы — яны». Найбольш стараж. назвы этнанімічнага тыпу грунтаваліся на ўяўленнях прадстаўнікоў пэўнай тэрытарыяльна-родавай супольнасці пра іх генетычную роднасць і часта зводзіліся да паняццяў «свае», «людзі», «мясцовыя», «тутэйшыя», а суседзі вызначаліся назвамі з сэнсам «чужыя», «не свае», «іншыя». Этымалогія Э. больш позняга паходжання вызначалася месцам жыхарства (дрыгавічы, драўляне — жыхары балот і лясоў; «бедуіны» — людзі стэпаў, ад арабскага «беду» — стэп), характарам заняткаў («орочэл» — «аленныя» ў эвенкаў), сацыяльным становішчам («франкі» — свабодныя) або зводзілася да імён легендарных ці гістарычных продкаў (радзімічы — ад Радзіма, вяцічы — ад Вятка, крывічы — ад Крыва і Крыва-Крывейта). Э.-саманазвы (эндаэтнонімы) часта не супадаюць і адрозніваюцца ад назваў з боку суседзяў (экзаэтнонімаў). Напр., германцы называюць сябе «дойчэ», але з боку рускіх, украінцаў, беларусаў, палякаў вызначаюцца экзаэтнонімам «немцы», з боку сербаў і славенцаў — «швабы» і г. д. Гістарычна экзаэтнонімы ўзнікаюць незалежна ад Э.-саманазваў, аднак у працэсе актывізацыі міжэтнічных кантактаў часта набываюць агульнае ці падобнае гучанне. Так, у сярэднія вякі і пазней усх. літоўцы называлі суседняе беларускамоўнае насельніцтва «гуды», «гудасы», «гудзяй», у той час, калі ў асяроддзі беларусаў існавалі саманазвы «русіны», «рускія», «літвіны», «палешукі», «беларусы», «беларусцы»; у наш час літоўцы ўжываюць блізкую да саманазвы беларусаў форму «балтарусяй» (ад літ. «балтас» — белы), радзей «гудзяй». У якасці экзаэтноніма суседзямі часта выкарыстоўваецца назва-мікраэтнонім адной з бліжэйшых тэрытарыяльных груп этнасу. Напр., на Беларусі, Украіне палякаў доўгі час вызначалі па назвах іх стараж. плямён ці пазнейшых этна-тэрытарыяльных груп — «ляхі», «мазуры» («мазушане»), «шлензакі», а з 19 ст. больш стабільна — палякі. Ужыванне адзіных Э. у межах этнасаў залежыць ад іх этнічнай кансалідаванасці і ўзроўню этнічнай самасвядомасці. У большасці еўрапейскіх народаў адзіныя і агульныя Э. стабілізаваліся ў эпоху складвання буржуазных адносін і нацыянальнага руху ў канцы 18— пач. 20 ст. Працэс узмацнення этнічнай самасвядомасці народаў суправаджаўся змяншэннем ролі мікраэтнонімаў, лакальна-тэрытарыяльных назваў, *канфесіёнімаў* і інш. Напр., у 2-й пал. 19— пач. 20 ст. этнанімічнае вызначэнне «украінцы», вядомае з 13 ст., пераўтварылася ў агульны Э. украінскага народа і замяніла інш. назвы («валыняне», «падаляне», «чаркасы», «казакі», «маларосы» і інш.). На Беларусі аналагічны працэс быў звязаны з пашырэннем у 17—20 ст. назвы «беларусы», якая паступова замяніла стараж. тэрытарыяльныя, канфесіянальныя, палітанімічныя (гл. *Палітонімы*) вызначэнні розных груп народа — «палешукі», «рускія», «літвіны» — і пераўтварылася ў адзіны Э. Даследаваннем паходжання Э., іх этымалогіі, гіст. лёсу займаецца асобная галіна анамастыкі — этнаніміка, а таксама этнаграфія і інш. грамадскія навукі. *І. У. Чаквін.*



**«Ю́РАЧКА»**, традыцыйны карагодны танец. Музычны памер $^{2}/_{4}$. Тэмп жвавы. Усе выканаўцы рухаліся па крузе парамі, акрамя аднаго «лішняга» хлопца, які прытанцоўваў сола. Калі карагод абходзіў круг, хлопец забіраў партнёрку з першай пары і лішнім станавіўся другі хлопец. Танец заканчваўся, калі «Юрачкам» перабываюць усе хлопцы. Пры гэтым карагод спяваў: «Ах ты, Юрачка, што не жэнішся? // Прыйдзе зімачка, куды дзенешся?», а «Юрачка» адказваў: «Я на печы ў кутку // Усю зімку прасяджу». Бытаваў у Магілёўскай, Мінскай, Гомельскай і інш. абласцях.

**ЮРКЕ́ВІЧ** Іван, беларускі этнограф 19 ст. Скончыў Жыровіцкую духоўную семінарыю (1837), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1841). Выкладаў у Магілёўскай семінарыі (1841—44), з 1844 праф. Літоўскай семінарыі ў Жыровічах. У арт. «Астрынскі прыход Віленскай губерні Лідскага павета» (Этнаграфічны зборнік. Спб., 1853. Вып. 1) прывёў звесткі пра побыт і культуру бел. сялян, пра вясельныя, радзінныя і пахавальныя абрады, зажынкі, гульні, вераванні і забабоны, змясціў 3 вясельныя і 3 жніўныя песні, 12 загадак і 4 прымаўкі. Сацыяльнае становішча сялян характарызаваў з рэакцыйных пазіцый. Бел. мову лічыў мешанінай рускай і польскай моў, але больш блізкай да рускай. *В. К. Бандарчык.*

**ЮРО́К**, в і р о к, прылада для звівання пражы ў клубок; круглая драўляная палачка даўж. 15—18 см з дзірачкамі на супрацьлеглых канцах, у якія працягвалася нітка.

**Ю́Р'Я**, Ю р а й, старадаўняе гадавое свята земляробчага календара. Адзначалася 23 красавіка с. ст. ў гонар заступніка жывёлы і гаспадаркі Юр'я. Да Юр'евага дня прымяркоўваўся першы выган статка ў поле, «на юр'еву расу», якой у нар. вераваннях надавалася цудадзейная моц. Вечарам напярэдадні Ю. упершыню выводзілі на начлег коней: лічылася, што Ю. замыкае ваўкам раты і конскі статак з гэтага дня не рызыкуе стаць ахвярай драпежнікаў. На Ю. здзяйсняўся абрадавы абход палёў, варажылі пра будучы ўраджай; з Ю. звязвалася шмат атрапейных

(ахоўных) і прадуцыравальных абрадаў. Магічнымі захадамі суправаджаўся раніцай 23 красавіка выган статка ў поле. Гаспадар тройчы абходзіў статак з запаленай грамнічнай свечкай. Гаспадыня абкурвала «жывоцінку» святаянскімі зёлкамі. Пастух лёгка сцёбаў кожную жывёліну асвечанай на вербніцу вярбінкай. На Магілёўшчыне тройчы абходзілі вакол коміна з лустай хлеба, прыгаворваючы: «Як печ стаіць на месцы, так штоб і скаціна хадзіла на места!» Затым хлеб скармлівалі жывёле. На Гродзеншчыне, выганяючы жывёлу ў поле, у падваротні хлява клалі ў вывернуты кажух яйка і лусту хлеба з тым, каб жывёла абавязкова пераступіла іх: спадзяваліся, што коні, каровы і авечкі будуць ад гэтага такія сытыя і гладкія, як яйка. На падвор'і пад уязную браму, праз якую праганялі жывёлу, клалі замкнутыя замком ніты ці замок. Паводле нар. вераванняў, такая засцярога рабілася з мэтай замкнуць ваўкам зубы, зберагчы жывёлу ад звяроў. Стараліся, каб статак прайшоў праз руннае поле, пры гэтым акраплялі кароў юр'евай расой, спадзеючыся, што гэта засцеражэ іх ад падкопаў ведзьмаў, паспрыяе большаму малаку.

Не менш урачыста і заклапочана здзяйсняўся і абрад агледзін нівы. Для гэтага пяклі спецыяльны каравай. Гаспадар загортваў яго ў абрус, клаў у сплецены з бяросты кош і, найчасцей, усёй сям'ёй выпраўляліся на поле. Гаспадар абходзіў з караваем усе свае палі. На жытнім загоне клалі каравай сярод руні. Калі каравай хаваўся ў ёй, чакалі ў гэтым годзе добрага ўраджаю. Прыпадалі да зямлі, слухалі, як расце жыта. Маладзіца, якая мінулай зімой выйшла замуж, пакрывала рунь кавалкам палатна. Вярнуўшыся дахаты, дзялілі каравай, спажывалі за святочным сталом з надзеяй добрага плёну на ніве. У зах. рэгіёне да жыта ішлі старэйшыя і моладзь пад вечар. Там частаваліся, танцавалі пад дуду або скрыпку, спявалі юраўскія песні. У выпадку агледзін нівы і абрадавага частавання гаспадар закопваў на канцах жытняга поля рэшткі ежы ад велікоднага стала (косці ад мяса, яечную шкарлупіну) дзеля засцярогі ад грому, сыпаў попел ад рэштак абрадавых страў на ніву, спадзеючыся пазбыцца пустазелля на ёй. Па надвор'і 23 красавіка меркавалі пра поспех у гаспадарцы. Калі на Ю. ішоў густы дождж, то лічылі: жыта ўрадзіцца густое, буйное. Калі ж дождж толькі «крапіць», то будуць увесь год кароў даіць, бо лета выдасца багатае на траву. Калі вада ў рэчцы прыбывае да Юр'евага дня, то лета будзе гарачае, з дажджамі неўпару. Калі на Ю. не будзе ні снегу, ні дажджу, то лета выдасца сухое, неўраджайнае. За колькі дзён да Ю. зацвітуць сады (вішні), за столькі дзён да Пятра пойдуць жаць жыта. Многія гэтыя гаспадарчыя прыкметы былі заснаваны на шматгадовай практыцы.

Ю. лічылася святам пастухоў. Яны збіралі ў гэты дзень багата закусак ад гаспадароў і ладзілі на пашы пачастунак. Меў ён абрадавае значэнне. Пастухі гатавалі яешню і з ёю тройчы абходзілі статак, пры гэтым рабілі розныя заходы, каб засцерагчы статак ад упаду і мору. На Ю. пастухі не бралі з сабой пугаў, што сведчыла пра гуманістычны характар нар. светаўспрымання. На Гродзеншчыне дзяўчаты на Ю. хадзілі з песнямі па вёсцы, рабілі абрадавы абход двароў, як на валікдзень.
*А. С. Ліс.*

**ЮЦЭ́ВІЧ** Людвік Адам Дзям'янавіч (псеўд. Людвік з Покева; 15.12.1813, в. Пакевіс, Кельмескі р-н Літ. ССР — 12.3.1846), літоўскі і беларускі этнограф і фалькларыст. З літоўскай шляхты. Скончыў Віленскую духоўную акадэмію (1836). Працаваў хатнім настаўнікам і гувернёрам (1831—34), у 1837—42 вікарый Свянцянскага і Свядосцкага прыходаў. У 1842 афіцыйна адрокся ад духоўнага сану, пераехаў на Беларусь. З 1843 выкладчык Лепельскага дваранскага вучылішча. Аўтар артыкулаў «Камяні літоўскіх багіняў» (1836), «Вялікія горы і гарадзішчы ў Літве» (1837), кнігі «Выслоўі і думкі» (1837, у дадатку да кнігі выказаў свае адносіны да нар. мовы і нацыянальнай культуры). Матэрыяльнай і духоўнай культуры літоўскага і бел. народаў прысвечаны працы «Другая гара» (фрагменты з рукапісу «Даследаванні даўніны літоўскай і беларускай»), «Гульні і забавы літоўскага народа на Жмудзі», «Літоўскія звычаі, дапасаваныя да пэўных дзён года» (усе 1839), «Прыказкі літоўскага народа», «Рысы Літвы», «Інструкцыя Якуба Сабескага...» (усе 1840), «Некалькі слоў да пана Крашэўскага...» (1841). У 1842 выдаў кнігу этнагр., гіст. і геагр. нарысаў «Паданні Літвы». У дадатку прывёў звесткі пра гісторыю семінарыі ў Жмудзі, судовыя прыгаворы чараўнікам, змясціў вясковыя песні. У зб. «Літоўскія песні ў перакладзе Людвіка з Покева» (1844) уключыў 35 песень, да некаторых з іх напісаў каментарыі. Адна з самых значных і грунтоўных прац — «Літва з пункту погляду рэштак старажытнасці, звычаяў і нораваў» (1846). У ёй вялікі і разнастайны матэрыял пра нар. міфалогію, адносіны чалавека да прыроды, звычаі, забавы, язычніцкія перажыткі, побыт, нар. медыцыну і інш.
*С. Ф. Цярохін.*

**ЮШКА,** агульная назва розных рэдкіх страў: з крыві, з рыбы, з мяса, з яблык і груш (кампот); гарачых і халодных (напр., *квашаніны* з мяса і рыбы).

**ЮШКА,** металічны кружок, якім закрываюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра.



**«Я́БЛЫЧКА»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп умерана хуткі. Танец узнік як флоцкі сольны мужчынскі, паступова перайшоў у гарадскі, а потым і ў сялянскі побыт, дзе набыў парную пабудову. Назва танца ад характэрнай прыпеўкі: «Эх, яблычка, куды коцішся, //Пападзеш да мяне, не варошся». Асноўныя рухі — просты крок у розных напрамках у спалучэнні з полька-вальсавымі паваротамі і прытупамі. Зрэдку быў і саліст (часцей мужчына), які дэманстраваў свой спрыт, выконваючы складаныя элементы: прысядку, дробныя выступкванні і г. д. Затым фігура паўтаралася спачатку. Танец пашыраны па ўсёй Беларусі.
*С. У. Клімовіч.*

**«ЯВАР»,** гульнёвы карагод. Танцоры становяцца ў дзве супрацьлеглыя лініі, бяруцца за рукі. Па чарзе лініі танцораў падыходзяць да рысы, праведзенай паміж імі. Калі хто пераступіць рысу або наступіць на яе, выбывае з карагода. У час рухаў выконваецца песня: «Явар, Явар, явaровы людзі...». Карагод зафіксаваны экспедыцыямі ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Ганцавіцкім р-не Брэсцкай вобласці.
*А. Л. Варламаў.*

**«ЯГО́РЫЙ»,** назва своеасаблівага народнага прадстаўлення з лялькамі, прысвечанага ўслаўленню *Юр'я* — міфічнага апекуна жывёлы. Паказы прымяркоўваліся да святкавання веснавога Юр'я (Ягорыя), якое адбывалася 23 красавіка с. ст. і суправаджалася таксама інш. гульнёвымі звычаямі. «Я.» уяўляў прымітыўны механічны тэатр лялек. Невялікія фігуркі конікаў насаджваліся на вострыя, замацаваныя ў доншчы, калкі і ў час руху паварочваліся вакол іх. Асноўны персанаж — Юрый на белым кані — вылучаўся большымі памерамі і займаў цэнтр. месца. Выканаўцы спявалі спецыяльныя песні, якія сваім меладычным складам набліжаліся да рэпертуару *валачобнікаў*. Паказы «Я.» зафіксаваны на Беларусі ў 19 ст.
*М. А. Каладзінскі.*

**ЯЗЫЧНІЦТВА** (ад царк.-слав. языцы — народы, чужаземцы), паганства (ад лац. paganus язычнік), прыняты ў багаслоўі і ўмоўна ў гістарычнай літаратуры тэрмін, які абазначае старадаўнія вераванні і культы, што існавалі да пашырэння т. зв. «вышэйшых» рэлігій (*хрысціянства*, ісламу, будызму). Я.— падзвычай шматслойная і

разгалінаваная рэлігія. Уключае ў сябе рознастадыяльныя ўяўленні, ідэалагічныя напластаванні розных гіст. эпох (*анімізм, фетышызм, татэмізм* і інш.).

Асноўныя звесткі пра слав. Я. паходзяць з розных крыніц, уключаючы творы антычных аўтараў, хрысціянскія палемічныя пісанні, гіст. сведчанні. Археалагічныя адкрыцці пацвердзілі існаванне язычніцкіх культавых збудаванняў, капішчаў, дзе адбываліся стараж. абрады. Цікавыя звесткі пра Я. даюць этнаграфія,фальклор, нар. выяўленчае мастацтва, мова. На працягу многіх тысячагоддзяў свайго існавання Я. зазнала шматлікія змены, трансфармацыі, наслаенні. Яно пачыналася ад культу вялікай Маці-Багіні эпохі матрыярхату, культу продкаў, культу жывёл і закончылася складаным і разгорнутым пантэонам багоў. У індаеўрапейскіх народаў вялікае пашырэнне атрымаў сонечны культ і культ агню як праяўленне энергіі сонца. З'явіліся шматлікія сімвалы сонца-агню ў выглядзе разетак, круглых шчытоў, разнастайных крыжоў і розных камбінацый інш. фігур з крыжамі (роўнаканцовы крыж, мальтыйскі крыж, упісаны ў кола, квадрат, ромб). Сонечны культ выяўляў тэндэнцыю да манатэізму. Накладваючыся на больш раннія вераванні і культы, ён дапускаў пэўны кампраміс, у якім ранейшыя божаствы падпарадкоўваліся галоўнаму з рысамі бога-сонца. Часта адбывалася індэнтыфікацыя галоўнага племяннога бажаства з сонцам. На больш нізкія ступені іерархіі спускаліся даўнія божаствы падначаленых плямён, асобных родаў і інш. Паводле сведчанняў антычных аўтараў, славяне лічылі ўладаром свету аднаго бога — творцу грому і маланкі, якому прыносілі ахвяры, але аддавалі належную пашану і менш значным міфалагічным персанажам. Прыносілі ахвяры таксама духам рэк і азёр, дрэвам, камяням і інш. (гл. *Ахвярапрынашэнне*). *«Аповесць мінулых гадоў»* адлюстравала позную стадыю існавання Я. ва ўсх.-слав. народаў. Кіеўскі князь Уладзімір перад тым, як увесці хрысціянства, спрабаваў стварыць дзярж. рэлігію з культам *Перуна*. Перун — бог грому і маланкі — адзін з найбольш старажытных божастваў, культ якіх выводзіцца з часоў індаеўрапейскай супольнасці (Пяркунас у літоўцаў, Пярунаш у хетаў). Вядома, што ў дагаворах з візантыйцамі русы прысягалі Перуном і *Вялесам*. Вылучэнне на першае месца Перуна ў часы князя Уладзіміра сведчыла пра аднясенне на другараднае месца божастваў сонца і агню, якія мелі раней агульнаслав. пашырэнне. Па нешматлікіх пісьмовых звестках можна меркаваць, што *Сварог* быў богам неба, а бог сонца *Дажбог* — яго сынам. Увядзенне хрысціянства не скасавала цалкам язычніцкіх уяўленняў, язычніцкай культуры. Хрысціянская царква вымушана была дапасоўваць свае святы і абрады да язычніцкага святочнага календара. Нар. масы па сутнасці доўгі час заставаліся язычнікамі. Язычніцкая па сваіх вытоках і аснове нар. свядомасць выявілася ў вераваннях, абрадах, звычаях, вуснай паэзіі народа. Многае з таго, што ў язычніцкія часы было культавым, захоўваецца ў асноўным як мастацкая з'ява.

Звесткі, сабраныя этнографамі, фалькларыстамі і інш. даследчыкамі традыцыйнай культуры на Беларусі, дазваляюць пад наносным пластом позніх хрысціянскіх уяўленняў адшукаць рэшткі язычніцкага светапогляду і магічна-абрадавай практыкі (святкаванне *дзядоў, радаўніцы*, звычаі і дзеянні, звязаныя з *пахаваннем*, нябожчыкамі, уяўленні пра «той свет»). У памяці народа жывуць шматлікія паданні і песні, у якіх з пазіцый міфалагічных уяўленняў тлумачыцца паходжанне аб'ектаў жывой і нежывой прыроды, чалавека, асобных народаў, культурных здабыткаў і інш. Без веры ў сапраўднасць іх існавання апавядаюцца гісторыі пра русалак, ваўкалакаў, лесавікоў, вадзянікоў, чарцоў, зданцаў, ведзьмаў і інш. персанажаў нар. *дэманалогіі*. У беларусаў шырока выкарыстоўвалася вербальная (слоўная) і невербальная *магія*: вялікае пашырэнне мелі разнастайныя замовы, праклёны, «засцерагальныя» дзеянні ад стыхійных пягод, эпідэмій, сацыяльных катаклізмаў і інш. [напр., комплекс рытуальных дзеянняў «выклікание дажджу», комплекс ахоўных дзеянняў, звязаных з тканнем ахвярнага палатна (гл. *Абыдзённік*), якім абносілі паселішча ад няшчасцяў, і шраг варожбаў, забарон, звязаных з аховай ураджаю, хатняй жывёлы, сямейнага дабрабыту, здароўя і жыцця асобных індывідуумаў]. У нар. уяўленнях працягваецца традыцыя паважлівых адносін да агню, у фальклоры ўслаўляюцца сонца, месяц, зоркі, дрэвы, рэкі, крыніцы і г. д. Абрады каляндарнага цыкла — *гуканне вясны*, ваджэнне куста, пахаванне «стралы» (гл. *«Страла»*), *купалле, каляды*, валачобніцтва, юраўскія і траецкія звычаі і дзейства страцілі сваю магічна-аграрную функцыю і захоўваюцца часткова ў нар. практыцы. *Л. М. Салавей.*

**ЯКАР**, прыстасаванне для ўтрымання на месцы суднаў, бакенаў, а таксама для перамяшчэння суднаў завозам; металічны стрыжань з лапамі, якія зачэпліваюць за грунт. Памеры Я. залежаць ад грузападымальнасці судпаў. Пры перамяшчэнні суднаў супраць цячэння завозам (падачай) выкарыстоўвалі Я. двух тыпаў: станавы (большага памеру) і завозны. Судна спынялі станавым Я., а завозны з прымацаваным да яго канатам завозілі на лодцы наперад на даўжыню каната і апускалі ў ваду. Другі канец каната падавалі на судна; бурлакі паднімалі станавы Я. і падцягвалі судна да таго месца, дзе быў кінуты завозны Я. У традыцыйнай лоўлі рыбы невадамі выкарыстоўваўся Я., аснову якога складаў металічны крук. Загнуты канец яго (лапа) быў расплюшчаны і меў ромбападобную форму. Пры лоўлі рыбы вудамі ў якасці Я. выкарыстоўваліся камяні, кавалкі жалеза, якія апускаліся на дно на вяроўцы. *Н. І. Буракоўская. І. М. Браім.*



**Якар** на возеры Чорнас, Бярозаўскі раён.

**ЯКАРНАЯ ВУДА**, традыцыйная рыбалоўная снасць. Выкарыстоўвалася ў рачным рыбалоўстве. Як і звычайная *вуда*, мела вудзільна, лёску, паплавок, грузіла, кручок. Адрозівалася ад іншых тыпаў вуд доўгай лёскай, якую не закідалі вудзільнам, а апускалі ў ваду з лодкі па цячэнні. Лодку звычайна ўтрымлівалі на месцы *якарам* (адсюль назва). Я. в. лавілі рыбу з прыкормам, які ў сеткавым мяшэчку апускалі ў ваду каля лодкі. Прынадай служылі вараны

гарох, авёс, ячная крупа. Лоўля Я. в. была папулярнай у 19—1-й пал. 20 ст. ў асяроддзі гарадскіх рыбаловаў, асабліва на Дняпры. У наш час падобным спосабам ловяць рыбу не толькі вудамі, але і спінінгамі з т. зв. «балдой», прымацаванай да лёскі пасудзінай з прыкормам. *І. М. Браім.*

**ЯЛЕ́НСКАЯ** (па мужу Дмахоўская; Jeleńska-Dmochowska) Эма (29.2.1864, в. Камаровічы Петрыкаўскага р-на — 24.1.1919), беларуская фалькларыстка і этнограф, польская пісьменніца. Пад уплывам Я. Карловіча зацікавілася побытам і духоўнай культурай бел. народа. У сваёй асноўнай этнагр. працы «Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце» [час. «Wisła» («Вісла»), 1891, т. 5, кн. 1, 2] грунтоўна апісала жыццёвы уклад, працоўную дзейнасць і эстэтычныя погляды палескіх сялян. Запісала 11 сшыткаў нар. песень, склала 2 рукапісныя зборнікі казак (62 творы), сабраных у Мазырскім і Навагрудскім пав. (выд. 1976, пад назвай «Беларускі казачны эпас»), а таксама «Песні, прыслоўі і загадкі з Камаровіч». У парыжскім час. «La tradition» («Традыцыя», 1894—95, т. 8) змясціла даследаванне «Палескі фальклор» і 8 бел. нар. песень у перакладзе на французскую мову. Аўтар раманаў і аповесцей. Вяла асветніцкую дзейнасць на Віленшчыне, адкрывала школы, перасоўныя бібліятэкі.

*Літ.:* Васілевіч У. А. «Паненка» з вёскі Камаровічы // Работніца і сялянка. 1986. № 2. *У. А. Васілевіч.*

**«Я́НКА»,** танец; адзін з варыянтаў беларускай полькі з арыгінальнай запамінальнай мелодыяй. На яе аснове створана яркая сцэнічная пастаноўка ў Дзярж. ансамблі танца БССР.

**ЯНЧУ́К** Мікалай Андрэевіч [17(29).11.1859, в. Карніца (Седлецкага ваяводства ПНР — 6.12.1921], беларускі, украінскі і рускі вучоны-славіст (этнограф, фалькларыст, антрапалаг, літаратуразнавец), пісьменнік. Скончыў Маскоўскі ун-т (1885). Працаваў настаўнікам, з 1892 памочнікам бібліятэкара Румянцаўскага музея, хавальнікам Дашкаўскага этнагр. музея ў Маскве. У 1889—1903 сакратар аддзела этнаграфіі Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це, заснавальнік і кіраўнік музычна-этнагр. камісіі (1901—21) пры аддзеле. Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў час. *«Этнографическое обозрение»*, дзе друкавалася шмат бел. матэрыялаў. Пасля Кастр. рэвалюцыі чытаў курс бел. і ўкраінскай літаратур у Маскоўскім ун-це, удзельнічаў у рабоце камісіі па арганізацыі Бел. ун-та, у 1921 прафесар кафедры бел. л-ры і этнаграфіі БДУ. Вывучаў побыт і нар. творчасць усх. славян. Першы на навуковай аснове збіраў і вывучаў бел. музычны фальклор, даў аб'ектыўную эстэтычную ацэнку бел. песеннаму меласу. У этнаграфічна-фальклорнай працы «Маларускае вяселле ў Корніцкім прыходзе Канстанцінаўскага павета Седлецкай губерні» (1886) шмат звестак для параўнаўчага вывучэння побыту беларусаў і ўкраінцаў. Апісанні вясельных абрадаў нярэдка суправаджаюцца іх тлумачэннямі. У працу ўключана 35 запісаў мелодый нар. песень (9 вясельных, астатнія лірычныя, жартоўныя). У каментарыях да іх прыведзены звесткі па матэрыяльнай культуры жыхароў Корніцы. У 1886 Я. правёў экспедыцыю ў Мінскую губ., задача якой — этнагр. і антрапалагічныя даследаванні. Па матэрыялах экспедыцыі напісаў працу «Па Мінскай губерні» (1889), дзе адлюстраваў жыццё беларусаў, духоўную культуру (пераважна вераванні). Да працы дадаў 158 бел. нар. песень (пераважна абрадавых) і 33 нотныя запісы песенных мелодый. Вёў арганізацыйную работу па вывучэнню Беларусі, перапісваўся з многімі беларусазнаўцамі.



М. А. Янчук.

Разам з М. М. Харузіным склаў «Праграму для збірання этнаграфічных звестак» (1887), якая закранала найважнейшыя галіны побыту народа. Складалася з 10 раздзелаў. Найбольш распрацаваны раздзелы, прысвечаныя абрадам, звычаям, вераванням і забабонам. У «Этнаграфічным нарысе Беларусі» (1918—20) зрабіў выснову, што бел. народ па сваёй культуры стаіць на адным узроўні з суседнімі народамі і мае правы на самастойнае існаванне. Аўтар прац па антрапалогіі (сярод іх «Некаторыя дадзеныя да пытання аб антрапалагічным тыпе беларусаў», 1890), літаратуразнаўству, мастацкаму перакладу, апрацовак нар. песень, у т. л. беларускіх, арыгінальных музычных твораў. Літаратурныя творы пісаў на рускай мове і палескай гаворцы.

*Тв.:* А. К. Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; О мнимонародных белорусских песнях исторического и мифологического содержания//Сборник Харьковского историко-филологического общества. Харьков, 1909. Т. 8; у кн.: Александровіч С. Х., Александровіч В. С. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн., 1978. С. 28—33, 167—176.

*Літ.:* Шаров Н. В. Николай Андреевич Янчук // Труды БГУ. 1922. № 2—3; Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964; Петровская Г. А. Не погасла звезда: Жизненный и творческий путь Н. А. Янчука. Мн., 1987; Нісневіч С. Да гісторыі збірання, вывучэння і выкарыстання беларускіх народных напеваў // Музыка нашых дзён. Мн., 1971.

**ЯРАШЭ́ВІЧ** Іосіф Бенядзіктавіч (1793, г. Бельск-Падляскі Беластоцкага ваяв., ПНР — 1.2.1860), беларускі і польскі гісторык, этнограф, юрыст. Скончыў Віленскі ун-т (1815). У 1815—26 выкладаў у Крамянецкім ліцэі (Цярнопальскай вобл.). Прафесар права Віленскага ун-та (1826—31). Пісаў на польскай мове.Друкаваўся ў час. «Athenaeum» («Атэнэум»), «Pamiętnik Warszawski» («Варшаўскі дзённік») і інш. Аўтар навуковых прац «Пра ўплыў хрысціянскай рэлігіі на цывілізацыю славян» (1826), «Пра стан цывілізацыі Літвы перад і пасля заснавання акадэміі», «Вобраз Літвы з пункту гледжання цывілізацыі ад найстаражытнейшых часоў да канца XVIII стагоддзя» (т. 1—3, 1844—45), «Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні: Бельскі павет» (1848, ёсць звесткі пра размяшчэнне, заняткі, адзенне, ежу і фальклор беларусаў гэтага павета), публікацыі пра Бельск, Драгічын, Супрасль і інш. Апіраючыся на звесткі М. Стрыйкоўскага, А. Нарушэвіча, Т. Нарбута, вывучаў паходжанне плямён, што жылі на Беларусі, фальклор і этнаграфію бел. насельніцтва. У сваіх працах часта зыходзіў з паланізатарскіх пазіцый. *Г. А. Каханоўскі.*

**ЯРМО́,** тып *вупражы* для валовай запрэжкі. Сярод іншых тыпаў вупражы (хамутовай і шлейнай) з'яўляецца найбольш старажытнай. Бывае парнае (на пару валоў) і адзінарнае (*байкун*, ярмец). Больш пашырана парнае Я. Складалася з падоўжанага корпуса з двума плаўнымі паглыбленнямі, у якія ўпіраліся холкі валоў, і ніжняга бруска, што разам са штырамі ўтвараў раму. Нярэдка ніжнюю частку рамнага корпуса замянялі Г-падобныя кульбакі або лукі, што ў рабочым стане агіналі шыю валоў. Найбольш архаічнае Я. нарожнае (мацавалася да рагоў валоў; аб ім паведамляюць сярэдневяковыя аўтары, у прыватнасці А. Гваньіні). Ярэмная (ярэмна-дышальная) вупраж была шырока распаўсюджаная у зах. частцы Беларусі і на Палессі, дзе яна бытавала да сярэдзіны 20 ст. *В. С. Цітоў.*

**ЯРЫ́ЛА,** у язычніцкай славянскай міфалогіі бажаство вясенняй урадлівасці і плоднасці жанчыны. Генетычна слова «Я.» паходзіць ад кораня «яр», звязанага з вясенняй урадлівасцю («ярына», «яры», «ярыцца»). Гісторык Б. Рыбакоў выказаў меркаванне, што

культ Я. ўзнік да вял. перасялення славян у 6 ст. н. э. У Суздальскім летапісцы упамінаецца назва ідала — Ярун. У часы хрысціянства Я. заменены святым Юрыем. У бел. міфалогіі ўяўляўся прыгожым хлопцам у белай вопратцы і на белым кані. Падобны богу славян Яравіту, германскаму Фро. У бел. фальклоры зафіксаваны П. Шпілеўскім у сярэдзіне 19 ст. («Валачыўся Ярыла па ўсяму свету. Полю жыта радзіў, людзям дзеці пладзіў...»). Вядомы у юраўскіх, купальскіх і русальных абрадах, песнях. Трансфарміраваны культ Я. захаваўся ў юраўскіх песнях і абрадах (тураўскі карагод з караваем, песні «Нажарам дуб'е гарэла...», «Разгуляўся Юр'еў конь...», «Разгарэўся сыры бор...» і інш.), у абрадах пахавання Я., «стралы», у купальскіх і русальных абрадах, карагодах і гульнях («А мы проса сеялі...», «А мы ляда капалі...», «Чурыла» і інш.). Назва шырока адлюстравана ў тапаніміцы. Святкаванне ў гонар бажаства наз. на Беларусі *ярылавіца*. *А. Ю. Лозка.*

**ЯРЫ́ЛАВІЦА,** язычніцкае святкаванне ў гонар бажаства *Ярылы.* Называлася таксама ярылкі. Святкавалі ў красавіку (на *Юр'я*), у маі — чэрвені (на *сёмуху*, на *русальны тыдзень*, на *купалле*). Святы ўключаюць як магічна-земляробчыя элементы, так і шлюбна-эратычныя. Назва свята упамінаецца ў бел. фальклоры («Да на вуліцы ярыловіца! Валялём! Ой, цяжка, хлопцам пятровіца...»). Абрад ушанавання бажаства Ярылы запісаны П. Шпілеўскім у 1846. Падобныя абрады бытуюць і ў наш час. Эратычныя «бясоўскія ігрышчы» (*русаллі*) ганьбавалі і забаранялі царкоўнікі ад часоў Кірылы Тураўскага (12 ст.) да 19 ст. У старажытнасці на Я. адбываліся язычніцкія шлюбы, т. зв. «ўмычкі» (выкраданні) жонак. Сляды даўніх традыцый зберагліся ў купальскіх і русальных гуляннях. *А. Ю. Лозка.*



**Ярмо.** Валы ў ярэмнай запрэжцы. Пачатак 20 ст.

**ЯСЕЛКА,** назва скрынкі з нерухомымі лялькамі — правобраза і папярэдніка батлейкавага тэатра (гл. *Батлейка*). Назву атрымала ад ясляў (прыстасавання для кармлення жывёлы ў хляве), дзе, паводле біблейскага падання, нарадзіўся Ісус Хрыстос. Была вядома пераважна ў зах. частцы Беларусі, канструкцыйна ўяўляла адкрытую скрынку з лялькамі, якая выстаўлялася ў час царкоўнага богаслужэння. Пры дапамозе лялек стваралася панарамная статычная кампазіцыя — сцэна на адну з біблейскіх тэм (нараджэнне Хрыста, пакланенне вешчуноў і г. д.). Паказы суправаджаліся звычайна спяваннем рэлігійных вершаў і кантычак. Часам Я. аздаблялася дэкаратыўнымі дэталямі, промнямі калляднай зоркі, якая ўваходзіла ў атрыбутыку нар. калядных тэатралізаваных прадстаўленняў. *М. А. Каладзінскі.*

**«ЯСЬ»,** гарадскі бытавы танец. Музычны памер $^2/_4$. Тэмп хуткі. Характар музычна-полечны. Танец парны, паланэзнне партнёраў у адносінах адзін да аднаго адвольнае. Асноўны блок рухаў складаецца з некалькіх прыстаўных крокаў з перамяшчэннем уперад і назад і маханнем адзін перад адным рукамі, то правай, то левай, з выцягнутымі указальнымі пальцамі — «пагражаюць» адзін аднаму. Выкананне танца суправаджаецца песняй: «Ой, ты, Ясю, ніці краў? // Ён бажыцца, што не браў. // Ён бажыцца і клянецца, // Забраў ніці і смяецца. // Ой, пу-ну, забачыш, // Што за ніці заплаціш». У час паўтору прыпеву (двух апошніх радкоў) партнёры выконваюць па чатыры нахілы корпуса адзін да другога. Зафіксаваны экспедыцыяй ГНДЛ бел. танцавальнай творчасці МІК у Берастаўіцкім р-не Брэсцкай вобласці.

**ЯТВЯ́ГІ, ЯЦВЯ́ГІ,** с у д з і н ы, с у д о в ы, група заходнябалцкіх плямён, якія ў 1-м — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. насялялі тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўем р. Нараў. Некаторыя даследчыкі (В. В. Сядоў, Ю. У. Кухарэнка і інш.) у тэрыторыю пражывання Я. уключаюць Падляшша, Берасцейскую зямлю, частку Верхняга Панямоння. Упершыню ўпамінаюцца ў рускіх летапісах пад 983. Вялі барацьбу супраць рускіх і польскіх князёў, з сярэдзіны 13 ст. супраць крыжакоў. У 11—13 ст. у Я. складваліся феадальныя адносіны. У канцы 13 ст. часткова вынішчаны крыжакамі, асноўная частка зямель Я. увайшла ў Вял. кн. Літоўскае, асіміляваны славянамі. Займаліся жывёлагадоўляй, земляробствам, паляваннем. Археалагічныя помнікі Я.— каменныя курганы. У 3—4 і 11—12 ст. у Я. пашыраны пахавальны абрад трупапалажэння, у 4—10 ст. трупаспалення. У мужчынскіх пахаваннях трапляюцца зброя і рыштунак баявога каня, у жаночых — упрыгожанні, дробныя прылады працы. *Я. Г. Звяруга.*

**ЯТРО́ЎКА,** жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата. Называлі таксама вятроўка.

**ЯЎРЭ́І,** 1) нацыя, якая фарміруецца ў дзяржаве Ізраіль. 2) Шэраг этнічных груп, расселеных у розных краінах свету і аб'яднаных агульнымі паходжаннем і самасвядомасцю. Агульная колькасць Я. каля 14 млн. чал., у СССР — 1811 тыс. чал., з іх у БССР — 135 тыс. чал. (звесткі перапісу 1979).



**Ятвягі.** Рэканструкцыя твару па чэрапу (з курганнага могільніка ў вёсцы Вензаўшчына Шчучынскага раёна).

Як асобны этнас Я. сфарміраваліся на тэр. Палесціны ў канцы 2-га тысячагоддзя да н. э. Стараж.-яўрэйская мова — іўрыт. У 1 ст. н. э. пасля захопу Ізраільскага і Іудзейскага царстваў Асірыяй, Вавілоніяй і Рымам большая частка Я. была выселена са сваёй этнічнай тэрыторыі. Рассялілася па Рымскай імперыі, пазней — па інш. краінах свету. Утварэнне т. зв. дыяспары спрыяла развіццю дывергентных працэсаў, што выявілася ў пераходзе Я. на мову народа, сярод якога яны жылі. Іўрыт выйшаў з паўсядзённага ўжытку, захаваўся толькі ў рэлігійнай сферы.

На Беларусі Я.-мігранты вядомы з

канца 14 ст., іх першыя абшчыны існавалі ў Брэсце і Гродне. Пэўную ролю ў этнічнай структуры насельніцтва Беларусі Я. пачалі адыгрываць з 2-й паловы 16 ст. пасля іх інтэнсіўнай міграцыі з Германіі і Польшчы. З канца 18 ст. бел. губерні ўваходзілі ў т. зв. мяжу аселасці Я., што садзейнічала павелічэнню тут іх колькасці: у 1863—350 тыс. чал., у 1897—890 тыс., у 1914—1250 тыс. (каля 14 %). Большасць Я. жыла ў гарадах і мястэчках (у 19 — пач. 20 ст.— 50—60 %). Да сярэдзіны 19 ст. захоўвалі ў асноўным традыцыйны лад жыцця. Займаліся рамёствамі, гандлем, дробным прадпрыймальніцтвам, ліхвярствам. Жылі замкнёнымі тэрытарыяльнымі абшчынамі — кагаламі. Кіраўніцтва грамадскім і рэлігійным жыццём выконвалі рабіны (пасады выбарныя). Рэлігія (іудаізм) моцна ўплывала на побыт Я., вызначала грамадскія і сямейныя паводзіны. Жыллё мала чым адрознівалася ад звычайных гарадскіх дамоў. Этнічная спецыфіка выяўлялася ў культавым дойлідстве. Своеасаблівасцю вызначаліся знешні выгляд, адзенне, ежа. Мужчыны насілі тунікападобную кашулю, доўгі чорны кафтан (лапсердак), маленькую шапку (ярмолка), якую не здымалі ў памяшканні; адпускалі бараду і доўгія валасы на скронях (пэйсы), замужнія жанчыны галілі галаву і насілі парык. Характэрнымі стравамі былі тушаная ялавічына з гароднінай (цымес), фаршыраваная рыба, велікоднае печыва (маца) і інш., строга забаранялася ўжываць стравы са свініны, а таксама малочныя і мясныя прадукты ўперамежку. Пасля скасавання кагальнай сістэмы (1844) многія Я. пачалі адмаўляцца ад архаічных традыцый свайго этнасу, засвойваць дасягненні еўрапейскай культуры. Адбывалася станаўленне новай яўрэйскай літаратуры на гутарковай мове — ідыш.

Пасля Кастр. рэвалюцыі яўрэйская мова ў БССР была ўведзена ў афіцыйны ўжытак, створаны ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры: на яўрэйскай мове выходзілі часопісы і газеты, былі аддзелы ў музеях, працавалі тэатральныя трупы. У 1930—31 на яўрэйскай мове навучалася 6,4 % вучняў. Ліквідацыя мяжы аселасці спрыяла міграцыі Я. з Беларусі ў Маскву, Ленінград і інш. буйныя гарады. У канцы 30-х г. формы нацыянальна-культурнай аўтаноміі Я. на Беларусі былі скасаваны. У гады Вял. Айч. вайны яўрэйскае насельніцтва панесла вялікія страты ад ням.-фаш. захопнікаў. У 1926 Я. складалі 8,2 % насельніцтва БССР, у 1959 — 1,8 %. Развіццё працэсаў інтэрнацыяналізацыі, рэзкае зніжэнне рэлігійнасці Я. прывяло іх да збліжэння з астатнім насельніцтвам, да развіцця асіміляцыйных працэсаў, гал. чынам за кошт міжэтнічных шлюбаў. У 1970 17,8 % Я. назвалі роднай мову сваёй нацыянальнасці, болей за 80 % — рускую, 2 % — беларускую. У 1980-я г. назіраецца рост цікавасці яўрэйскага насельніцтва да ўласнай культуры, мінулага. У 1988 яўрэйскія т-вы створаны ў Мінску і Бабруйску.

*П. У. Церашковіч.*

**ЯЦКО́** Мікалай Геранімавіч (1855, Бабруйшчына — ?), беларускі этнограф, фалькларыст. Вучыўся ў Бабруйскай прагімназіі, Слуцкай класічнай гімназіі (з 1872). Працаваў настаўнікам у м. Колбча Ігуменскага пав. (1887—92), быў карэспандэнтам П. В. Шэйна. У яго «Матэрыялах для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (т. 2., 1893; т. 3, 1902) змясціў артыкулы «Вярцеп на калядныя святкі», «Хаджэнне са звяздою перад Новым годам», «Знахары», «Супрацьзалома», фальклорныя творы, запісаныя ў Рэчыцкім і Ігуменскім пав., некаторыя міфічныя казкі і казкі пра жывёл, шмат замоў, гульняў і інш.

*А. Ю. Лозка.*

**«Я́ШЧУР»,** карагод-гульня. Называўся таксама «Яшчар». Дзяўчаты аддавалі «яшчуру» (хлопцу, які знаходзіўся ў цэнтры круга) свае вянкі або хусткі, пярсцёнкі і інш. Адбывалася гэта пад гукі песні: «Сядзі, сядзі, яшчур, / / У гайку у зялёным, / / У арэхавым кусце / / На залатым крэсле...». Кожная дзяўчына прасіла: «Пане яшчур, / / Аддай мой вяночак! / / Мой вяночак залаты, / / Загубіла з галавы. / / Будзе мяне мамка біць, / / Ды некаму бараніць». Каб выкупіць вянок, дзяўчына цалавала «яшчура», або выконвала якое-небудзь інш. яго пажаданне. У розных мясцовасцях існавалі некаторыя адрозненні ў гульні і песнях, але шлюбная тэматыка іх паўсюдна заставалася нязменнай. Карагод-гульня быў пашыраны па ўсёй Беларусі.

У фальклоры вянок сімвалізуе чысціню і цнатлівасць. Рускі сав. гісторык Б. А. Рыбакоў бачыць у бел. варыянце «Я.» трансфармацыю прынясення дзяўчат у ахвяру дракону-яшчару — гаспадару падземна-падводнага царства. Паводле яго тэорыі, у старажытнасці лічылі, што Сусвет складаецца з трох частак: падземна-падводнага свету, які прадстаўлены драконам-яшчарам, сярэдняга, населенага людзьмі і шаманамі, і верхняга, нябеснага, населенага жанчынамі-ласіхамі. Невыпадкова на Палессі адначасова з гульнёй «Я.» існавала гульня «Олей» (олей, мусіць, алень), падобная да «Я.». У гульнях адбіліся сляды стараж. міфаў пра аленяў, ласёў. У неалітычных паселішчах бел. археолагі знаходзяць фігуры аленяў, выробленых з рога. Магчыма, што «Я.» спарадзіў многія гульні шлюбнай тэматыкі.

*А. Ю. Лозка.*

## БІБЛІЯГРАФІЯ


**Алексеев В. П.** Происхождение народов Восточной Европы: (Краниологическое исследование). М., 1969.

**Алексеев Л. В.** Полоцкая земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Северной Белоруссии. М., 1966.

**Алексеева Т. И.** Этногенез восточных славян по данным антропологии. М., 1973.

**Алексютович Л. К.** Белорусские народные танцы, хороводы, игры. Мн., 1978.

**Аникиевич К. Т.** Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев, 1907.

**Анимелле Н.** Быт белорусских крестьян // Этнографический сборник. Спб., 1854. Вып. 2.

Ареальные исследования в языкознании и этнографии. Л., 1977.

Ареальные исследования в языкознании и этнографии (язык и этнос): Сб. научных трудов. Л., 1983.

Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985.

**Байбурин А. К.** Жилище в обрядах и представлениях восточных славян. Л., 1983.

Балады. Кн. 1—2. Мн., 1977—78. (Беларус. нар. творчасць).

**Бандарчык В. К.** Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964.

**Яго ж.** Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст. Мн., 1970.

**Яго ж.** Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі. Мн., 1972.

**Бандарчык В. К., Малаш Л. А.** Беларуская этнаграфія і фальклор у працах славянскіх вучоных эпохі рамантызму. Мн., 1973.

**Барсов Н. П.** Очерки русской исторической географии: География начальной (Несторовой) летописи. 2 изд. Варшава, 1885.

**Барташэвіч Г. А.** Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя. Мн., 1985.

**Без-Корнилович М. О.** Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии... Спб., 1855.

**Безсонов П. А.** Белорусские песни, с подробными объяснениями их творчества и языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871.

Беларускае народнае адзенне. Мн., 1975.

Беларускае народнае жыллё. Мн., 1973.

Беларуская народная архітэктурная разьба: [Альбом] / Склад. Л. А. Малчанава. Мн., 1958.

Беларуская фалькларыстыка. Мн., 1989.

Беларуская этнаграфія і фалькларыстыка: Бібліягр. паказ. (1945—1970) / Склад. М. Я. Грынблат. Мн., 1972.

Беларускія народныя тканіны ў зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР: Кат. Мн., 1979.

Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов. Т. 1—3. Мн., 1959—61.

Белорусская археология: Достижения археологов за годы Советской власти. Мн., 1987.

**Бобровский П.** Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Гродненская губерния. Ч. 1—2. Спб., 1863.

**Богданович А. Е.** Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этногр. очерк. Гродно, 1895.

**Браім І. М.** Рыбалоўства ў Беларусі: Гіст.-этнагр. нарыс. Мн., 1976.

**Бромлей Ю. В.** Этнос и этнография. М., 1973.

**Яго ж.** Очерки теории этноса. М., 1983.

**Брук С. И.** Население мира: Этнодемогр. справ. 2 изд. М., 1986.

**Булгаковский Д. Г.** Пинчуки: Этногр. сб.: Песни, загадки, пословицы, обряды, приметы, предрассудки, поверья, суеверья и местный словарь. Спб., 1890.

**Бунак В. В.** Антропологические исследования в Южной Белоруссии // Антропологический сборник. М., 1956. № 1.

Валачобныя песні. Мн., 1980. (Беларус. нар. творчасць).

**Василевич В. А.** Восточнославянская юмористическая песня. Мн., 1979.

Веснавыя песні. Мн., 1979. (Беларус. нар. творчасць).

**Вількін Я. Р.** Беларускія народныя гульні. Мн., 1969.

Восеньскія і талочныя песні. Мн., 1981. (Беларус. нар. творчасць).

Восточнославянский этнографический сборник: Очерки нар. материальной культуры русских, украинцев и белорусов в XIX — начале XX в. М., 1956.

Выслоўі. Мн., 1979. (Беларус. нар. творчасць).

Вяселле: Абрад. Мн., 1978. (Беларус. нар. творчасць).

Вяселле: Песні. Кн. 1—6. Мн., 1980—88. (Беларус. нар. творчасць).

**Герберштейн С.** Записки о московских делах. Спб., 1908.

**Гілевіч Н. С.** Наша родная песня: Навук.-папул. нарыс. Мн., 1968.

Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1—5. Мн., 1972—75.

**Гринблат М. Я.** Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968.

**Грицкевич А. П.** Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (социально-экон. исследование истории городов). Мн., 1975.

**Грицкевич В. П.** От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986.

**Яго ж.** С факелом Гиппократа: Из истории белорус. медицины. Мн., 1987.

**Грыцкевіч В. П., Мальдзіс А. І.** Шляхі вялі праз Беларусь: Нарыс. Мн., 1980.

**Гуревич Ф. Д.** Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962.

**Гурков В. С.** Современная белорусская деревня: Основные направления в развитии поселений и жилищ. Мн., 1975.

**Гурков В. С., Терехин С. Ф.** Бортничество в Белоруссии. Мн., 1980.

**Іх жа.** Занятие издревле благородное. Мн., 1987.

**Гурский А. И.** Зимняя поэзия белорусов. Мн., 1980.

Дзіцячы фальклор. Мн., 1972. (Беларус. нар. творчасць).

**Довнар-Запольский М. В.** Исследования и статьи. Т. 1. Киев, 1909.

**Яго ж.** Народное хозяйство Белоруссии, 1861—1914 гг. Мн., 1926.

Древнее жилище народов Восточной Европы. М., 1975.

Древняя одежда народов Восточной Европы: Материалы к ист.-этногр. атласу. М., 1986.

Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963.

**Ермаловіч М.** Старажытная Беларусь: Гіст. нарысы // Маладосць. 1988. № 7—12.

Жартоўныя песні. Мн., 1974. (Беларус. нар. творчасць).

Жарты, анекдоты, гумарэскі. Мн., 1984. (Беларус. нар. творчасць).

Жніўныя песні. Мн., 1974. (Беларус. нар. творчасць).

**Жучкевич В. А.** Дороги и водные пути Белоруссии: Ист.-геогр. очерки. Мн., 1977.

**Яго ж.** Общая топонимика. 3 изд. Мн., 1980.

**Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е.** Города и села Белорусской ССР: Ист.-геогр. очерки. Мн., 1959.

**Забелин [А. Ф.]** Краткое описание части Западного Полесья. Киев, 1883.

Загадкі. Мн., 1972. (Беларус. нар. творчасць).

**Загорульский Э. М.** Древняя история Белоруссии: Очерки этнической истории и материальной культуры (до IX в.). Мн., 1977.

Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік/Аўт. тэксту і склад. І. П. Загрышаў, С. А. Мілючэнкаў. Мн., 1983.

**Зверуго Я. Г.** Древний Волковыск X—XIV вв. Мн., 1975.

**Зеленский И.** Материалы для географии и статистики России...: Минская губерния. Ч. 1—2.Спб., 1864.

Зімовыя песні: Калядкі і шчадроўкі. Мн., 1975. (Беларус. нар. творчасць).

**Зябловский Е.** Землеописание Российской империи для всех состояний. Ч. 6. Спб., 1810.

История культуры Древней Руси. Т. 1. М.; Л., 1948.

**Кабашнікаў К. П.** Беларускі фальклор у параўнальным асвятленні: Гістарыягр. нарыс. Мн., 1981.

**Яго ж.** Беларуска-рускія фальклорныя сувязі. Мн., 1988.

Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі. Мн., 1971 (Беларус. нар. творчасць).

Казкі ў сучасных запісах. Мн., 1989. (Беларус. нар. творчасць).

**Карский Е. Ф.** Белорусы. Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903; Т. 3. Очерки словесности белорусского племени. [Вып. 1]. Народная поэзия. М., 1916.

**Карцов Г.** Беловежская пуща. Спб., 1903.

**Каханоўскі Г. А.** Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984.

**Яго ж.** Адчыніся, таямніца часу: Гіст.-літ. нарысы. Мн., 1984.

**Киркор А.** Этнографический взгляд на Виленскую губернию // Этнографический сборник. Спб., 1858. Вып. 3.

**Клімчук Ф. Д.** Гаворкі Заходняга Палесся: Фанет. нарыс. Мн., 1983.
**Козлов В. И.** Национальности СССР: Этнодемогр. обзор. 2 изд. М., 1982.
**Копысский Э. Ю.** Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1975.
**Коробушкина Т. Н.** Земледелие на территории Белоруссии в X— XIII вв. Мн., 1979.
**Косич М. Н.** Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни. Спб., 1902.
**Крачковский Ю. Ф.** Быт западнорусского селянина. М., 1874.
Купальскія і пятроўскія песні. Мн., 1985. (Беларус. нар. творчасць).
**Курилович А. Н.** Белорусское народное ткачество. Мн., 1981.
Курс белоруссоведения: Лекции, читанные в Белорусском нар. ун-те в Москве летом 1918 года. М., 1918—20.
**Кушнер (Кнышев) П. И.** Этнические территории и этнические границы. М., 1951.
**Лебедева Н. И.** Жилище и хозяйственные постройки Белорусской ССР... М., 1929.
**Лебедкин М.** О племенном составе народонаселения Западного края Российской империи // Записки Русского географического общества. 1861. Кн. 3.
Легенды і паданні. Мн., 1983. (Беларус. нар. творчасць).
Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971.
Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968—69.
**Ліс А. С.** Купальскія песні. Мн., 1974.
**Лысенко П. Ф.** Города Туровской земли. Мн., 1974.
**Яго ж.** Берестье. Мн., 1985.
**Любавский М. К.** Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910.
**Мавродин В. В.** Образование Древнерусского государства и формирование древнерусской народности. М., 1971.
**Яго ж.** Происхождение русского народа. Л., 1978.
**Мажэйка З. Я.** Песні беларускага Паазер'я. Мн., 1981.
**Яе ж.** Календарно-песенная культура Белоруссии: Опыт системно-типологического исследования. Мн., 1985.
**Майков Г. П.** Белорусский край. Спб., 1898.
**Мальдзіс А.** Астравеччына, край дарагі...: Нарыс. Мн., 1977.
**Яго ж.** Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя: Нарысы быту і звычаяў. Мн., 1982.
**Маслова Г. С.** Народная одежда в восточнославянских традиционных обычаях и обрядах XIX — начала XX в. М., 1984.
Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896.
**Мейер А.** Описание Кричевского графства в 1786 году // Могилевская старина. 1901. Вып. 2.
**Мелешко В. И.** Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
**Мельниковская О. Н.** Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.
**Меховский М.** Трактат о двух Сарматиях. М.; Л., 1936.
**Милюченков С. А.** Белорусское народное гончарство. Мн., 1984.
**Минько Л. И.** Народная медицина Белоруссии: (Краткий ист. очерк). Мн., 1969.
**Яго ж.** Знахарство: Истоки, сущность, причины бытования. Мн., 1971.
**Яго ж.** Суеверия и приметы: (Истоки и сущность). Мн., 1975.
**Митрофанов А. Г.** Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.). Мн., 1978.
**Молчанова Л. А.** Материальная культура белорусов. Мн., 1968.
Музей беларускага народнага мастацтва: [Фотаальбом]. Мн., 1983.
Музей старажытнабеларускай культуры: Кат. экспазіцыі. Мн., 1983.
**Мялешка М.** Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Мн., 1929.
**Назина И. Д.** Белорусские народные музыкальные инструменты: Самозвучащие, ударные, духовые. Мн., 1979.
**Яе ж.** Белорусские народные музыкальные инструменты: Струнные. Мн., 1982.
Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. Мн., 1974.
Народны тэатр. Мн., 1983. (Беларус. нар. творчасць).
Народы Европейской части СССР. Т. 1—2. М., 1964.
**Нидерле Л.** Славянские древности: Пер. с чеш. М., 1956.
**Никифоровский Н. Я.** Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности: Этногр. данные. Витебск, 1895.
**Яго ж.** Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897.
Общественный, семейный быт и духовная культура населения Полесья. Мн., 1987.
Опыт описания Могилевской губернии в историческом, физико-географическом, этнографическом, промышленном, сельскохозяйственном... отношении /Сост. по программе и под ред. А. С. Дембовецкого. Кн. 1—3. Могилев, 1882—84.
Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2. Мн., 1970—72.
Пахаванні. Памінкі. Галашэнні. Мн., 1986. (Беларус. нар. творчасць).
Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. IV. Виленская губерния. Тетр. 1—3. Спб., 1900—04; V. Витебская губерния. Тетр. 1—3. Спб., 1899—1903; XI. Гродненская губерния. Спб., 1904; XXII. Минская губерния. Спб., 1904; XXIII. Могилевская губерния. Спб., 1903.
Песні пра каханне. Мн., 1978. (Беларус. нар. творчасць).
Песні савецкага часу. Мн., 1970. (Беларус. нар. творчасць).
**Петровская Г. А.** Белорусские социально-бытовые песни. Мн., 1982.
**Пилипенко М. Ф.** Этнография Белоруссии. Мн., 1981.
**Пичета В. И.** Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961.
**Поболь Л. Д.** Археологические памятники Белоруссии: Железный век. Мн., 1983.
Полесский этнолингвистический сборник: Материалы и исследования. М., 1983.
Полесье: (Лингвистика. Археология. Топонимика). М., 1968.
Полесье: Материальная культура. Киев, 1988.
Помнікі этнаграфіі: Методыка выяўлення, апісання і збірання. Мн., 1981.
**Похилевич Д. Л.** Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957.
Праздники и обряды в Белорусской ССР. Мн., 1988.
Проблемы картографирования в языкознании и этнографии. Л., 1974.
Проблемы этнической географии и картографии. М., 1978.
Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984.
Прыказкі і прымаўкі. Кн. 1—2. Мн., 1976. (Беларус. нар. творчасць).
Прыпеўкі. Мн., 1989. (Беларус. нар. творчасць).
**Пыпин А. Н.** История русской этнографии. Т. 1—4. Спб., 1890—92.
Радзінная паэзія. Мн., 1971. (Беларус. нар. творчасць).
**Радченко З.** Гомельские народные песни. Спб., 1888.
**Раманюк М. Ф.** Беларускае народнае адзенне: [Фотаальбом]. Мн., 1981.
**Романов Е. Р.** Белорусский сборник. Вып. 1—9. Вильна, 1886—1912.
**Яго ж.** Материалы по этнографии Гродненской губернии. Вып. 1—2. Вильна, 1911—12.
Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. Спб., 1905.
**Руднев Я. И.** Русская земля: (Природа страны, население и его промыслы). Т. 7. Белорусско-Литовское Полесье Спб., 1898.
**Рыбаков Б. А.** Ремесло Древней Руси. М., 1948.
**Яго ж.** Язычество древних славян. М., 1981.
**Сабаленка Э. Р.** Этнаграфічная спадчына Якуба Коласа. Мн., 1969.
**Салавей Л. М.** Беларуская народная балада. Мн., 1978.
**Саливон И. И., Тегако Л. И., Микулич А. И.** Очерки по антропологии Белоруссии. Мн., 1976.
**Сапунов А. П.** Река Западная Двина: Ист.-геогр. обзор. Витебск, 1893.
**Сахута Я. М.** Беларускае народнае мастацтва. Мн., 1980.
**Яго ж.** Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии. Мн., 1982.
**Яго ж.** Фарбы роднай зямлі: Нарысы пра нар. мастацтва Беларусі. Мн., 1985.
**Яго ж.** Беларуская народная кераміка. Мн., 1987.
**Сахута Е. М., Говор В. А.** Художественные ремесла и промыслы Белоруссии. Мн., 1988.
Сацыяльна-бытавыя казкі. Мн., 1976. (Беларус. нар. творчасць).
Сацыяльна-бытавыя песні. Мн., 1987. (Беларус. нар. творчасць).
**Севергин В.** Записки путешествия по западным провинциям Российского государства... Спб., 1803.
**Седов В. В.** Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970.
**Яго ж.** Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982.
**Сементовский А. М.** Этнографический обзор Витебской губернии. Спб., 1872.
**Сербов И. А.** Белорусы-сакупы: Краткий этногр. очерк. Пг., 1915.
**Яго ж.** Вічынскія паляне: Этнагр. нарыс Беларускага Палесся. Мн., 1928.
**Сергачев С. А.** Деревянная архитектура Белоруссии XVI—XIX вв. Мн., 1984.
**Сержпутовский А. К.** Земледельческие орудия Белорусского Полесья. Спб., 1910.
**Яго ж.** Бортничество в Белоруссии // Материалы по этнографии России. Спб., 1914. Т. 2.
**Яго ж.** Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930.
**Скурат К. У.** Даўнія беларускія меры (лексічны аналіз). Мн., 1974.
**Соколова В. К.** Весенне-летние календарные обряды русских, украинцев и белорусов. XIX — начало XX в. М., 1979.
Сямейна-бытавыя песні. Мн., 1984. (Беларус. нар. творчасць).
**Татур Г. Х.** Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ее археологическое значение. Мн., 1892.

